# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ Ў ДВУХ ТАМАХ

2-е выданне

УДК 94(476)«12/17»(031)
ББК 63.3(4Бел)я2
В 99

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Мастак З.Э.Герасімовіч

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі Ю.В.Бажэнава, І.І.Гардзіевіч, З.Э.Герасімовіча, А.П.Дрыбаса, І.М.Духана, Л.У.Калядзінскага, А.В.Клешчука, А.М.Кушнярэвіча, М.П.Мельнікава, В.С.Пазднякова, С.М.Плыткевіча, К.К.Шастоўскага, малюнкі гербаў М.П.Каправа, А.Леўчыка, а таксама геральдычныя матэрыялы А.К.Цітова

ISBN 978-985-11-0394-8 (т. 2)
ISBN 978-985-11-0392-4



## асноўныя скарачэнні

адм. – адміністрацыйны
арт. – артыкул
археагр. – археаграфічны
археал. – археалагічны
асн. – асноўны
б. – былы
бел. – беларускі
б-ка – бібліятэка
в. – вёска (пры назве)
ваяв. – ваяводства (пры назве)
вер. – верасень
ВКЛ – Вялікае княства Літоўскае
вобл. – вобласць (пры назве)
воз. – возера (пры назве)
вол. – воласць (пры назве)
вял. – вялікі
г. – горад (пры назве)
гал. – галоўны
гар. – гарадскі
гіст. – гістарычны
гл. – глядзі
дзярж. – дзяржаўны
д-р – доктар
ж. – жыхар
жн. – жнівень
З – захад
заг. – загадчык
зах. – заходні
ін-т – інстытут
канд. – кандыдат
кастр. – кастрычнік
кн. – князь (пры імю)
крас. – красавік
культ. – культурны
ліп. – ліпень
ліст. – лістапад
літ. – літоўскі, літаратурны
л-ра – літаратура
мяст. – мястэчка (пры назве)
мясц. – мясцовы
н. – нарадзіўся
навук. – навуковы
найб. – найбольш, найбольшы
нар. – народны
нац. – нацыянальны
пав. – павет (пры назве)
пал. – палова
паліт. – палітычны
паўд. – паўднёвы
паўн. – паўночны
пач. – пачатак
Пд – поўдзень
ПдЗ – паўднёвы захад
ПдУ – паўднёвы ўсход
пл. – плошча
Пн – поўнач
ПнЗ – паўночны захад
ПнУ – паўночны ўсход
правасл. – праваслаўны
праф. – прафесар
р. – рака (пры назве)
рас. – расійскі
р-н – раён (пры назве)
рус. – рускі
рэліг. – рэлігійны
с. – сяло (пры назве)
с.-г. – сельскагаспадарчы
сак. – сакавік
сац. – сацыяльны
слав. – славянскі
снеж. – снежань
спец. – спецыяльны
ст. – стагоддзе
старaж. – старажытны
студз. – студзень
суд. – судовы
сял. – сялянскі
т.зв. – так званы
тыс. – тысяча
тэр. – тэрыторыя, тэрытарыяльны
У – усход
укр. – украінскі
ун-т – універсітэт
усх. – усходні
феад. – феадальны
царк. – царкоўны
цэнтр. – цэнтральны
чал. – чалавек
чл. – член
чл.-кар. – член-карэспандэнт
чэрв. – чэрвень
эканам. – эканамічны
юрыд. – юрыдычны



**кадэцкі корпус**, сярэдняя ваенна-навучальная ўстанова. У Рэчы Паспалітай прызначаліся для падрыхтоўкі дзяцей шляхты (часам мяшчан) да ваеннай службы. Першым у ВКЛ стаў заснаваны ў 1747 *Нясвіжскі кадэцкі корпус*. К.к. заснаваў таксама ў г. Белая (пазней пераведзены ў Слуцк) Г.Ф.Радзівіл для падрыхтоўкі афіцэраў у сваё надворнае войска. У 1765 адчынена ўрадавая Рыцарская школа ў Варшаве.

**казакі**, 1) сацыяльная супольнасць, якая існавала ў ВКЛ у 15—17 ст. Пад казацтвам ВКЛ трэба разумець 2 розныя, але цесна звязаныя паміж сабой з'явы: украінскае (запарожскае) казацтва з канца 15 ст. да 1569 і сфарміраваныя па-казацку атрады жыхароў Беларусі ў 17 ст. У 15—16 ст. у паўд. раёнах ВКЛ паступова адбываўся працэс фарміравання прынцыпова новай сац. групы — казацтва. Паходжанне тэрміну «К.» канчаткова не высветлена, у цюркскіх мовах гэта слова азначае «вольны чалавек». На слав. землях у 14—15 ст. К. называлі свабодных людзей, аб'яднаных у шайкі, рознага роду авантурыстаў. Калыскай казацтва ВКЛ сталі малазаселеныя паўд.-укр. землі, якія былі своеасаблівым буферам паміж *Крымскім ханствам* і зямельнымі ўладаннямі феадалаў ВКЛ і знаходзіліся толькі пад намінальным паліт. кантролем Вільні. Узмацненне феад. прыгнёту ў ВКЛ садзейнічала прытоку на гэтыя землі беглых сялян і пасадскіх людзей з бел. і ўкр. паветаў. Патрэба ў самазабеспячэнні і пастаянная пагроза з боку татараў вызначылі ваенны лад жыцця і неабходнасць стварэння моцнай вайсковай арганізацыі. Пастаянныя кантакты з крымскімі татарамі спрыялі ўвабранню К. цюркскіх элементаў у назвах, звычаях, побыце. Як сац. з'ява казацтва ВКЛ не было унікальным і мела непасрэдныя аналогіі на землях суседняй Маскоўскай дзяржавы (данское, грэбенскае, церскае і яіцкае казацтва). Першыя звесткі пра К. ВКЛ (у рас. крыніцах называліся «чаркасы») адносяцца да канца 15 ст. У 1489 яны былі выкарыстаны ў выправе супраць татараў, у 1494 К. напалі на турэцкую крэпасць Ачакаў, у 1499 зрабілі паход на Крым. Адным з першых ідэю арганізацыі казацкага войска і выкарыстанне яго ў дзярж. інтарэсах для аховы дняпроўскіх пераправаў ад татараў выказаў вял. кн. Жыгімонт Стары, аднак гэты праект застаўся нерэалізаваны. З пач. 16 ст. магнаты паўд. паветаў ВКЛ сталі прыцягваць казацкія атрады для абароны сваіх уладанняў ад знешніх ворагаў і мясц. праціўнікаў. Вялізную ролю ў арганізацыі казацкага войска адыграў А.*Дашковіч*, які ў 1520-я г. на чале буйнога атрада К. ладзіў паходы на Маскоўскую дзяржаву, Крымскае ханства і асманскія ўладанні ў Прычарнамор'і. У сярэдзіне 16 ст. адным з найб. значных правадыроў шматлікіх казацкіх атрадаў быў чаркаскі і канеўскі староста кн. Дз.І.Вішнявецкі (Байда). У 1556 ён пабудаваў крэпасць на адным з астравоў у ніжнім цячэнні Дняпра (традыцыйна лічыцца, што на Хорціцы). Гэта стала пачаткам афармлення першага казацкага прадзярж. утварэння — *Запарожскай сечы*. У 2-й пал. 16 ст. паступова аформілася сістэма кіравання сеччу, цалкам заснаваная на выбарнай аснове. Кожны курэнь выбіраў сабе куреннога атамана, агульным сходам К. выбіралася казацкая старшына: кашавы атаман, есаул і інш. Рашэнні прымаліся на агульным сходзе К. («чорная рада») не большасцю, а агульнай згодай. З пашырэннем радоў казацтва і прыняццем на дзярж. службу часткі К. у 1572 (рэестравыя К.) пачалі афармляцца гетманская ўлада і рада палкоўнікаў.

Пасля заключэння *Люблінскай уніі 1569* і перадачы ўкр. паветаў у склад Польскага каралеўства казацтва ў ВКЛ



Да арт. **Казакі**. Гетман П.Канашэвіч-Сагайдачны. Дрэварыт з кнігі К.Саковіча «Вершы на жалобнае пахаванне... Канашэвіча». Кіеў. 1622.



Да арт. **Казакі**. Бітва пад Берасцечкам. Мастак Ф.Смуглевіч. Да 1797.

фактычна знікла, аднак запарожскае казацтва бесперапынна папаўнялася выхадцамі з бел. зямель ВКЛ. Першая спроба актывізацыі казацкага руху на Беларусі звязана са з'яўленнем у канцы 1595 у ВКЛ атрада ўкр. К. пад кіраўніцтвам С.*Налівайкі*. Узімку 1596 ва ўсх. Беларусь уварваўся атрад М.Шавулы. З'яўленне ўкр. К. спрыяла паказачванню мясц. бел. насельніцтва, г.зн. далучэнню да казацкіх атрадаў часткі сялян, мяшчан і правасл. шляхты. Ня гледзячы на актыўны ўдзел бел. насельніцтва ў паўстанні Налівайкі, працэс паказачвання на Беларусі не набыў масавага характару і з выцясненнем атрадаў Налівайкі і Шавулы быў спынены.

З разгортваннем на Украіне ўвесну 1648 нац.-вызваленчай вайны пад кіраўніцтвам Б.*Хмяльніцкага* і *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Беларусі назіраецца другая хваля актывізацыі казацкага руху. Са з'яўленнем атрадаў укр. К. у паўд.-ўсх. паветах ВКЛ пачаўся працэс паказачвання бел. сялянства, мяшчанства і часткі правасл. шляхты, які набываў масавы характар. Разам з далучэннем мясц. жыхароў да атрадаў укр. К. пачалі ўтварацца атрады мясц. паўстанцаў, блізкія па сваёй структуры да казацкіх. Бел. паўстанцы выбіралі сабе палкоўнікаў (пад імі разумеліся кіраўнікі больш-менш значных атрадаў). Права на зацвярджэнне палкоўнікаў належала Хмяльніцкаму. Атрад паказачаных бел. сялян колькасцю каля 400 чал. на чале з Іванам Столярам быў створаны ў Мазыры. Структурна гэты атрад складаўся з некалькіх харугваў, адна з якіх была набрана з мазырскіх мяшчан на чале з нейкім Седлярам, астатнія фарміраваліся з жыхароў мазырскага наваколля. На ўзбраенні паказачаных мазыран знаходзілася каля 200 стрэльбаў і некалькі гармат. Буйны атрад з паказачаных сялян і мяшчан колькасцю ад 700 да 1500 чал. пад кіраўніцтвам Пакусіна ўтварыўся ў Рэчыцы. Асн. ўзбраенне рэчыцкіх паказачаных сялян складалі рагаціны і бердышы, агнястрэльнай зброі амаль не было. Ігуменскія мяшчане ўтварылі харугву колькасцю каля 100 чал. на чале з сотнікам Грыбовічам. Жыхары Турава стварылі 2-тысячны атрад на чале з Пракопам Цэўкай, які называў сябе «тураўскім палкоўнікам». На Століншчыне паказачаныя сяляне і мяшчане Кажан-Гарадка і Давыд-Гарадка стварылі вял. атрад і «выбіралі палкоўнікаў, сотнікаў на казацкі манер». Контрнаступленне войска ВКЛ пад кіраўніцтвам Я.*Радзівіла* ў канцы 1648—пач. 1649 прывяло да выцяснення ўкр. К. з тэр. Беларусі, да разгрому мясц. паказачаных паўстанцаў і згортвання казацкага руху ў ВКЛ. Вясной 1650—зімой 1651 у сувязі са з'яўленнем ва ўсх. Беларусі ўкр. К. пад кіраўніцтвам Шохава адбыўся чарговы ўздым казацкага руху ў Пасожжы. У цэлым у перыяд казацка-сял. вайны 1648—51 мясц. паказачаныя сяляне не аддзялялі сябе ад укр. К. і імкнуліся інтэгравацца ў гэтую масу. Перамога шляхецкага войска прывяла да паражэння казацкага руху і на Беларусі.

Дзейную спробу стварыць сапраўды бел. казацтва зрабіў магілёўскі правасл. шляхціц К.*Паклонскі* ў 1654—55 у час *вайны Расійскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654—67*. З дазволу цара Аляксея Міхайлавіча ён арганізаваў *Беларускі полк*, прычым не толькі як вайсковае падраздзяленне, але і як адм.-тэр. адзінку ў межах Магілёўскай вол. з цэнтрам у мяст. Чавусы. У адрозненне ад інш. казацкіх атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі бел. паветаў ВКЛ, полк Паклонскага падпарадкоўваўся не Хмяльніцкаму, а непасрэдна Маскве і ўяўляў сабой аўтаномнае казацкае ўтварэнне колькасцю да 6 тыс. чалавек. Сац. базай палка былі бел. правасл. шляхціцы, мяшчане, сялянства. Жорсткія сутыкненні К. Бел. палка з К. ўкр. наказнога гетмана І.*Залатарэнкі*, які дзейнічаў ад імя Хмяльніцкага на Беларусі, адсутнасць масавай падтрымкі з боку мясц. насельніцтва, магчымая эвалюцыя поглядаў Паклонскага адносна распаўсюджання ўлады Рас. дзяржавы на землі Беларусі прывялі да пераходу «бел. палкоўніка» з часткай К. свайго палка на бок Рэчы Паспалітай, пасля чаго Бел. казацкі полк знік.

Частка бел. насельніцтва далучылася да ўкр. казацкага войска Залатарэнкі, якое ў пэўным сэнсе беларусізавалася, але працягвала дзейнічаць на Беларусі ў інтарэсах Хмяльніцкага. У студз. 1656 Хмяльніцкі прызначыў «бел. палкоўнікам» выхадца з Беларусі І.*Нячая*, які замяніў Залатарэнку. Пад кантролем Нячая апынулася частка Аршанскага пав., дзе афармілася казацкая адм.-тэр. сістэма. Структурна яго полк складаўся з 19 сотняў, якія мелі тэр. характар; рэзідэнцыяй палкоўніка стала мяст. Чавусы (адсюль назва Чавускі полк). Увосень 1658 Нячай са сваім войскам перайшоў на бок Рэчы Паспалітай і пачаў баявыя дзеянні супраць рас. войска. Казацкі полк Нячая дзейнічаў ва ўсх. Беларусі да снеж. 1659, пакуль «палкоўнік чавускі і быхаўскі» не трапіў у палон.

Адначасова з Нячаем у цэнтр. Беларусі дзейнічала казацка-сял. войска на чале з наказным бел. палкоўнікам Дз.*Мурашкам*. З восені 1656 рэзідэнцыяй Мурашкі было мяст. Ігумен, летам 1657 яна была перанесена ў в. Камень. Афіцыйна з'яўляючыся саюзнікам Рас. дзяржавы, К. Мурашкі нападалі на бел.

шляхту, якая прысягнула на вернасць рас. цару. У 1656—58 войска Мурашкі дзейнічала ў Менскім і Ашмянскім паветах, кантралюючы значную тэрыторыю. У вер. 1658 Мурашка са сваім войскам адкрыта перайшоў на бок Рэчы Паспалітай і працягваў баявыя дзеянні да заканчэння вайны.

Разам з такімі буйнымі казацкімі ўтварэннямі, як палкі Паклонскага, Нячая і Мурашкі, у час вайны 1654—67 дзейнічала шмат дробных сял. партызанскіх атрадаў, падобных па сваёй структуры да казацкіх. Заканчэнне вайны і ўмацаванне пазіцый дзярж. улады спрыяла заняпаду казацкага руху на Беларусі. Часовыя лакальныя ажыўленні яго назіраюцца ў апошнія дзесяцігоддзі 17 ст., у асноўным пад уплывам падзей на Украіне. У 1684 паказачыліся і перайшлі пад кантроль Старадубскага казацкага палка вёскі, якія знаходзіліся на левабярэжжы Сажа ад Рослава да Гомеля. У 18 ст. казацкі рух на Беларусі фактычна знік.

У адрозненне ад Украіны і Рас. дзяржавы на Беларусі не было аб'ектыўных умоў для існавання такой этнасацыяльнай групоўкі, як казацтва. Усе спробы стварэння бел. казацкага войска пацярпелі правал. Побач з добраахвотным паказачваннем адбываўся і прымусовы запіс сялян у К., у прыватнасці ў палкі Паклонскага і Нячая, што тлумачыцца жаданнем бел. насельніцтва не мяняць кардынальна традыцыйны лад жыцця, інш. ментальнасцю. У ВКЛ у 17 ст. не было такіх аддаленых рэгіёнаў, як Украіна, якія б дрэнна кантраляваліся дзяржавай, а ваенныя функцыі, што выконвалі К. на Украіне, на бел. землях здаўна належалі мясц. шляхце.

2) Від лёгкай кавалерыі ў войску ВКЛ, блізкі да *пяцігорцаў*, які прыйшоў на змену *гусарам* пасля трансфармацыі апошніх у цяжкаўзброеную конніцу. Узнікненне казацкай кавалерыі адносіцца да 16 ст., а найб. росквіту яна дасягнула ў час войнаў 2-й пал. 17 ст. У 16 ст. казацкі рыштунак складаўся з панцыра, шышака, шаблі, сагайдака і рагаціны або сякеры. У 17 ст. засцерагальны рыштунак казацкай кавалерыі значна скараціўся або адсутнічаў зусім, замест сагайдака распаўсюджанне атрымалі пісталеты, па-ранейшаму на ўзбраенні засталіся шабля і рагаціна. Асн. базай для камплектавання казацкай конніцы была дробная шляхта, якая не мела дастаткова сродкаў, каб узброіцца па-гусарску. Паводле рашэння соймікаў з 1654 кожны павет ВКЛ павінен быў выстаўляць па 4 харугвы, адна з якіх мусіла быць узброена па-казацку. Казацкая кавалерыя існавала да 18 ст., саступіўшы месца створаным у 1770-я г. палкам пярэдняй варты, частка якіх на Беларусі атрымала назву пяцігорскіх.



Узяцце **казакамі** г. Кафа ў 1606. Дрэварыт з кнігі К.Саковіча «Вершы на жалобнае пахаванне... Канашэвіча». Кіеў. 1622.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Белорусское казачество // Наук. зап. Львівського державного ун-ту: Сер. іст. Львів, 1957. Т. 43; Сагановіч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў 16 — 17 стст. Мн., 1994; Яго ж. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995; Горобець В.М. Білорусь козацька: Пілковник Іван Нечай та українські змагання за Південно-Східну Білорусь (1655—1659). Київ, 1998.

***Станіслаў Чаропка.***

**Казаковіч** (Казак) Ян (1550-я г.?— пасля 1603), паэт, перакладчык. Стала ўжываў мянушку Літвін. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. Вызнаваў кальвінізм. Быў звязаны з дваром біржанскай (кальвінісцкай) лініі Радзівілаў. Першы вядомы твор К. — лацінамоўны верш-прысвячэнне А.*Рымшу* ў кнізе апошняга «Дзесяцігадовая аповесць пра ваенныя справы... Крыштофа Радзівіла» (Вільня, 1585). У кнізе Я.*Радвана* «Радзівіліяда» (Вільня, 1588) змешчаны 3 вершаваныя прысвячэнні К. маладым Радзівілам: Юрыю, Янушу і Крыштофу (подпіс пад апошнім — «Jan Kozak Litwin»). Мяркуецца, што верш «Слава на шчаслівую перамогу Мікалая Радзівіла пад Кессю ў 1578 годзе», змешчаны ў гэтай кнізе, таксама належыць К. На працягу 1590-х г. К. апублікаваў каля 15 вершаў у 7 кнігах розных аўтараў. У перакладзе С.*Кашуцкага* кнігі Цыцэрона «Пра абавязкі людзей усіх станаў» (Вільня, 1593) змешчаны 2 творы К.: лацінамоўнае прысвячэнне Мікалаю Нарушэвічу і польскамоўны верш «На гэтыя кнігі». Матыў асуджэння шляхты за тое, што вышэй за рыцарскую годнасць і хрысціянскія цноты яна ставіць багацце, гучыць у вершах К. з «Новага запавета» (Вільня, 1593). Услаўленне «праўдзівай» веры ў кальвінісцкім разуменні і антыкаталіцкія захады прысутнічаюць у вершах К., змешчаных у пратэстанцкіх выданнях рэлігійна-асветніцкай і рэлігійна-палемічнай накіраванасці. У перавыдадзенай у Вільні ў 1594 кнізе Мікалая Рэя «Польская пасціла» надрукаваны 2 вершы К. Выразную рэлігійна-палемічную накіраванасць мае верш К. «Да ласкавага чытача», змешчаны разам з эпіграмай на герб Януша Радзівіла ў творы Шымана Тэафіла (Турноўскага) «Люстра хрысціянскага набажэнства ў Польшчы» (Вільня, 1594). К. абараняў ад арыян боскасць Хрыста ў кнізе Гжэгажа з Жарнаўца «Кліпеус, альбо Духоўны шчыт» (Вільня, 1598), заклікаў да кальвінізму ў перавыданні кнігі «Літоўская пасціла» (Вільня, 1600). Найб. вядомасць прынёс яму выдадзены Я.*Карцанам* пераклад на польскую мову кнігі Іосіфа Флавія «Іудзейская вайна» (Вільня, 1595), з якога потым невядомым аўтарам быў зроблены пераклад на старабел. мову (не апублікаваны). Свой твор К. прысвяціў Крыштофу Зяновічу, пры гэтым пазначыў сваё месцазнаходжанне (Мосар). Пасля К. выдаў кнігі «Дух Данілы» («Manes Danielani», Вільня, 1603; зборнік вершаў на смерць кальвінісцкага святара Данілы Стафана Тэаліпта і яго блізкіх) і «Валоскі арэх» («Orzech wioski», Вільня, 1603; вольны пераклад Авідзія). Хоць у паэтычнай творчасці поспехі К. былі даволі сціплымі, ён быў адным з самых пладавітых віленскіх паэтаў канца 16—пач. 17 ст.

*Літ.*: Кавалёў С. Сціплы служка муз: (Творчасць Яна Казаковіча Літвіна) // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мн., 2002. Вып. 2.

**казанне**, казань, невялікая прамова святара ў царкве ў час набажэнства

з мэтай тлумачэння вернікам хрысціянскіх ідэй, звычайна звязаных са зместам набажэнства. У праваслаўі і каталіцтве праказваць могуць толькі святары і біскупы, паколькі К. разглядаецца як від дару Божага (дар вучыцельства); у якасці выключэння дазваляецца трымаць К. манахам ці ляікам (напр., выкладчыкам рыторыкі ў царк. школах). У пратэстантызме К. разглядаецца як акт натхнення і від аратарскага майстэрства, а таму можа даручацца спрактыкаванаму прамоўцу (казнадзею). Паводле візантыйскай традыцыі ва ўсх. славян да 16 ст. мусілі рэгулярна праказваць толькі епіскапы; сярод парафіяльных святароў практыка К. адсутнічала наогул. У 14—15 ст. у ВКЛ існавалі К. на царк.-слав. мове, якія ў залежнасці ад зместу называліся «слова», «пахвала», «павучэнне», «бяседа» і інш. Творы распаўсюджваліся ў складзе літургічных кніг («Таржэсцвеннік») і зборнікаў для чытання («Залатавуст», «Залатаструй», «Маргарыт» і інш.). Выдатны казнадзей гэтага часу — *Грыгорый І* Цамблак, чые К. вызначаюцца вобразнасцю і рытарычнай аздобленасцю. Пад зах. ўплывамі казальная практыка з сярэдзіны 16 ст. пашырылася сярод правасл. парафіяльных святароў (спачатку ў гарадах і па вял. святах), а ў Закарпацці і Галіцыі (у складзе Венгрыі і Польшчы) — і сярод вясковых. З'явіліся К. на старабел. мове, некаторыя з якіх былі надрукаваны: «Казанне Кірылы, патрыярха Ерусалімскага» у перакладзе С.Зізанія (Вільня, 1596), «Казанняў двое» Лявонція Карповіча (Еўе, 1615), «Казанне на чэснае пахаванне Лявонція Карповіча» Мялеція Сматрыцкага (Вільня, 1620), «Казанне на чыненне памяці А.Ф.Шапціцкаму» П.Д.Лютковіча (Менск?, 1622). Папулярнымі сталі зборнікі К. — «Вучыцельныя Евангеллі» (у зах. традыцыі «Пасцілы»), адно з якіх, «Евангелле Каліста» (Еўе, 1616; Кіеў, 1637), складзена Сматрыцкім на старабел. мове. У пач. 17 ст. уніяты ўвялі К. ў парафіяльную практыку, у 1630-я г. пасля рэформ Пятра Магілы, гэта зрабілі і праваслаўныя. З 1620-х г. К. актыўна развівалася на Украіне, дзе з'явіліся выдатныя казнадзеі Зіновій Капысценскі, Пётр Магіла, Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі, Іаанікій Галятоўскі, Андрэй Радзівілоўскі і інш. Гэта падштурхнула ўвядзенне К. (з дазволу патрыярха Нікана) у Расіі, дзе яно занядала ў 15 ст.; першымі казнадзеямі маглі выступаць бел. і ўкр. эмігранты-царкоўнікі.

Паводле будовы вызначаюць 2 тыпы К.: у адвольнай форме (гамілія) і сістэматызаванае К. (з 13 ст.), пабудаванае паводле правіл рыторыкі. Навука па складанні К. называецца гамілетыкай. Паводле зместу вылучаюць К. ўрачыстае (на святы) і дыдактычнае (павучальнае), на пахаванне выдатнай асобы прамаўлялася пахавальнае К., якое ў 1-й пал. 17 ст. пад польскім уплывам стала папулярным у ВКЛ. Часта К. запісваліся на інш. мове, чым прамаўляліся, таму многія К., што трымаліся ў ВКЛ на бел. ці ўкр. мове, выдаваліся на царк.-слав. ці польскай мовах (напр., пахавальнае К. на смерць кн. В.Галіцына, выдадзенае Лявонціем Карповічам па-польску ў Вільні ў 1619). У 17 ст. казальная вобразнасць, стылістыка і кампазіцыя перажывалі росквіт, гал. чынам пад зах. ўплывамі. З развіццём схаластычнай адукацыі ў К. узмацнілася штучнасць, пампезная рыторыка і эрудыцыя, якія ўскладнялі разуменне твора. Развіццё казальнай практыкі спрычынілася да з'яўлення парадыйных твораў (напр., рукапіснае «Казанне руськае», каля 1697).

*Літ.*: Петров Н.И. Из истории гомилетики в старой Киевской академии // Тр. Киевской Духовной Академии. 1866. Т. 1; Korowicki I. Stan kaznodziejstwa prawosławnego na przełomie ww. XVI—XVII w państwie litewsko-polskim. Warszawa, 1935; Пелешенко Ю.В. Розвиток української ораторської та агіографічної прози кінця XIV—початку XVI ст. Київ, 1990; Корзо М.А. Образ человека в проповеди XVII века. М., 1999.

***Ігар Клімаў.***

**Казекі**, Казікі, княжацкі род уласнага герба «Зкрыжлук». Паходжанне невядома, даследчыкі мяркуюць, што маглі паходзіць з Арды, палавецкіх князёў або Рурыкавічаў. Валодалі ў асн. маёнткамі на Валыні. Найб. вядомыя:

Фёдар, першы вядомы прадстаўнік роду. У 1445 падпісаўся як сведка на акце вял. князя Свідрыгайлы. Меў сыноў Андрэя, Льва, Івана, Васіля, Міхаіла. Першыя тры памяняліся маёнткамі з кн. І.Ю.Заслаўскім і ўзамен за зямлю на р. Рось атрымалі Ласосну.

Міхаіл Фёдаравіч (?—да 1512), сын Фёдара. У 1502 атрымаў ад вял. князя Аляксандра маёнткі Макрэц, Кухары і Баброўнікі ва Уладзімірскім пав., купіў маёнтак Асміговічы.

Іван Васілевіч (?—да 1545), сын Васіля Фёдаравіча. У 1528 ставіў у войска 5 коннікаў. Валодаў маёнткамі Біскупічы, Разнова, Ружчалавічы.

Андрэй Міхайлавіч (?—паміж 1550 і 1568), сын Міхаіла Фёдаравіча. Яшчэ да 1512 трапіў у маскоўскую няволю, вярнуўся ў 1528, калі ставіў у войска ВКЛ 5 коннікаў. У 1546 член камісіі па размежаванні Кароны Польскай і ВКЛ. Валодаў маёнткамі Макрэц і Замлічы.

Дзмітрый Андрэевіч (1538—9.9.1583), сын Андрэя Міхайлавіча. Паборца Уладзімірскага пав. ў 1568 і 1576. Пры заключэнні Люблінскай уніі 1569 прысягнуў пры далучэнні Валыні да Кароны Польскай. Пасол на элекцыйны сойм 1573. Валодаў маёнткамі Замлічы, Бермашаў, Калона, Біскупічы, Макрэц, Жаскавічы. Яго дзеці ўжо насілі прозвіча Казікі.

Андрэй (?—паміж 1609 і 1625), сын Дзмітрыя Андрэевіча. Пасол на соймы 1607 і 1609. Меў сыноў Пятра і Вацлава.

Вацлаў Андрэевіч (?—пасля 1632), сын Андрэя. Пасол на элекцыйны сойм 1648. Валодаў маёнткамі Замлічы і Бермашаў Уладзімірскага пав., Касцяневічы Берасцейскага пав.

Тамаш (?—да 1667). Валынскі падстолі, пасля падкаморы. Пасол на соймы 1632, 1638, 1641, 1646, 1648, 1649, 1653.

***Валерый Пазднякоў.***

**Казельскае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Адно з *Вярхоўскіх княстваў*. Вылучылася са складу *Чарнігаўскага княства* ў канцы 12 ст. З 1246 у складзе *Карачаўскага княства*. У пач. 14 ст. вядомы казельскі і звянігарадскі кн. Андрэй Мсціславіч — зяць невядомага літ. князя (магчыма, Гедзіміна) — у 1336 забіты сваім пляменнікам. У 2-й пал. 14 ст. Казельск зноў сталіца ўдзельнага княства. Заснавальнікам казельскай лініі вярхоўскіх князёў стаў Іван Цітавіч — зяць вял. разанскага кн. Алега Іванавіча. Відаць, у пачатку свайго існавання К.к. знаходзілася ў залежнасці ад Вял. княства Разанскага. Так, разам з вял. князем разанскім Алегам Іванавічам казельскія князі хадзілі ў 1365 і

1400 супраць татар, а ў 1395 і 1401 — супраць ВКЛ. Пэўны час К.к. арыентавалася ці на саюз з ВКЛ, ці з Вял. княствам Маскоўскім, у залежнасці ад антытатарскай арыентацыі гэтых дзяржаў. К.к. ахоплівала невял. тэрыторыю на левабярэжжы Акі з нізоўямі Жыздры. Яму належаў Перамышль (т.зв. Перамышль Калужскі на р. Ака), а таксама Ялец. У канцы 14 ст. з К.к. вылучыліся Перамышльскі і Ялецкі ўдзелы. У 1396 Казельск быў захоплены вял. князем літ. Вітаўтам. Аднак замацаваць за ВКЛ К.к. не ўдалося. Аслабленне ВКЛ у сувязі з паражэннем у *бітве на Ворскле 1399* выкарыстала Масква. У канцы 14 ст. княства трапіла пад непасрэднае кіраванне вял. князя маскоўскага Васіля І. Пры гэтым казельскі князь атрымаў у якасці кампенсацыі значную пасаду ў Маскве (у 1408 вядомы ржэўскі ваявода кн. Юрый Казельскі). Паміж 1404—06 Казельск быў дададзены да маскоўскага ўдзела кн. Уладзіміра Андрэевіча Серпухаўскога. Але ўжо ў 1406 Казельск далучаны да ВКЛ, у ім быў пасаджаны намеснік, К.к. скасавана. Частка казельскіх валасцей была перададзена тарускім князям (потым — мезецкім), якія не пажадалі служыць Маскве. У час унутранай барацьбы ў ВКЛ пасля смерці Вітаўта (1430) Казельск, відаць, пазбавіўся ўлады ВКЛ. У 1447 захоплены войскамі ВКЛ. У 1448 намеснікам у Казельску стаў кн. Ф.Л. Варатынскі. Апошні ў 1455 атрымаў Перамышль. Такім чынам, Варатынскія сканцэнтравалі ў сваіх руках усе ўладанні былога К.к. У канцы 1489 кн. Варатынскі перайшоў на службу ў Маскву. Казельск апынуўся пад уладай вял. князя маскоўскага Івана III. Дагавор аб «вечным міры» 1494 замацаваў Казельск за Вял. княствам Маскоўскім.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Фетищев С.А. К вопросу о присоединении Муромы, Мещеры, Тарусы и Козельска к Московскому княжеству в 90-е гг. XIV в. // Российское государство в XIV—XVII вв. СПб., 2002; Я г о ж. Московская Русь после Дмитрия Донского: 1389—1395 гг. М., 2003.

***Віктар Цемушаў.***



Св. **Казімір**. Абраз. 18 ст.

**Казімір** (3.10.1458, г. Кракаў—4.3.1484), дзяржаўны дзеяч Польшчы і ВКЛ, святы рымска-каталіцкай царквы. 2-і сын караля польскага і вял. князя літоўскага *Казіміра IV* Ягелончыка і Альжбеты Ракушанкі. Атрымаў гуманістычнае выхаванне, сярод яго настаўнікаў былі гісторык Я.*Длугаш*, паэт *Калімах*, С.Шыдлавецкі; К. добра ведаў лацінскую і нямецкую мовы. Выхоўваўся як будучы венгерскі кароль (яго маці была адзінай законнай спадчынніцай чэшскай і венгерскай карон). У 1471 з 12-тысячным войскам рушыў на венгерскага караля Мацея Корвіна, аднак пацярпеў няўдачу. У 1474 удзельнічаў у перагаворах у Любліне з венецыянскім паслом А.Кантарыні, у час якіх абмяркоўвалася стварэнне антытурэцкай лігі. У 1475—76 разам з бацькам быў у ВКЛ. У 1476 удзельнічаў у перагаворах з крыжакамі ў Мальбарку. У 1479—81 у ВКЛ. Пасля таго як была выкрыта *змова 1481* і бацька выехаў у ВКЛ, К. стаў каралеўскім намеснікам Польшчы. Вясной 1483 выкліканы бацькам у Вільню, дзе яму даручана выконваць функцыі кароннага падканцлера. У Вільні вызначыўся клопатамі пра патрэбы жыхароў і апекай над касцёламі. Паводле пазнейшых біёграфаў, К. быў вельмі набожны і даў зарок цнатлівасці. У Вільні захварэў на сухоты і на шляху ў Люблін на сейм памёр у Гародні. Пахаваны ў капліцы Маці Божай Віленскага кафедральнага касцёла. У 1516 па ініцыятыве віленскага біскупа А.Радзівіла, капітула і мясц. бернардзінцаў пачаўся працэс беатыфікацыі К., які не быў скончаны ў сувязі са смерцю рымскага папы Льва X у 1521, а матэрыялы, дасланыя з ВКЛ, загінулі ў 1527 у час нападу на Рым нямецкага войска. Папа Клімент VIII у 1602 зацвердзіў кананізацыю К. і літургію на яго свята. У 1636 астанкі К. перанесены ў новую капліцу кафедральнага касцёла (у 1953—89 знаходзіліся ў касцёле Пятра і Паўла). З 18 ст. набыў вял. папулярнасць віленскі фэст у гонар К. (4 сак.), які суправаджаўся кірмашом («казюкі», «Казюкас»). Сінод Віленскай дыяцэзіі ў 1613 пастанавіў лічыць патронамі Літвы святых Георгія, Мікалая і К., у 1636 гэта прызнаў рымскі папа Урбан VIII. У 17 ст. культ К. пашырыўся па ўсёй Рэчы Паспалітай, у т.л. сярод уніятаў. Цяпер К. — святы патрон Польшчы і Літвы, Вільнюскай і Кракаўскай архідыяцэзій, Беластоцкай, Гродзенскай, Драгічынскай, Ломжынскай, Пінскай і Радамскай дыяцэзій, папулярны як апякун моладзі. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 281, 290.

*Літ.*: Lipnicki A. Życie, cuda i cześć świętego Kazimira. 2 wyd. Wilno, 1907; Prochaska A. Wyprawa św. Kazimierza na Węgry (1471—1474) // Ateneum Wileńskie. 1923. № 1—2; Jodziewicz A. Miejsce zgonu św. Kazimierza // Там жа. 1925. Z. 9; Rabikauskas P. Šv. Kazimieras. Vilnius, 1993; Samsonowicz H. Kaplica św. Kazimierza w Wilnie i uroczyste przeniesienie relikwii świętego w 1636 roku // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Ярашэвіч А. Святы Казімір у гісторыі і мастацтве // Наша вера. 2002. № 1; Ankstyvieji šv. Kazimiero «Gyvenimai» / Sudare M.Čiurinskas. Vilnius, 2004; Kiryk F. Królewicza Kazimierza Jagiellończyka działalność publiczna // Studia historyczne. 2005. Z. 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Казімір III** Вялікі (Kazimierz III Wielki; 30.4.1310, Коваль каля Улацлаўка—5.11.1370), польскі кароль [1333—70], апошні з дынастыі Пястаў па мужчынскай лініі. У 1325 яго бацька Уладзіслаў I Лакаток і вял. князь літоўскі *Гедзімін*, якія да гэтага варагавалі, заключылі накіраваны супраць Тэўтонскага ордэна саюз, замацаваны дынастычным шлюбам К. III (насуперак яго жаданню) і дачкі Гедзіміна *Альдо-*


**Казімір III**. Гравюра. 1605.

*ны*. Адным з вынікаў саюзу быў сумесны рэйд польска-літ. войска ў 1326 на Брандэнбург і Франкфурт-на-Одэры на чале з *Давыдам* Гарадзенскім. Прыйшоўшы да ўлады, К. III прадаўжаў лінію бацькі на тэр. экспансію. Скарыстаўшы адсутнасць спадкаемца ў апошняга галіцка-валынскага кн. Юрыя-Баляслава II Трайдзенавіча (памёр у 1340), спрабаваў захапіць Галіччыну і абвясціць сябе гаспадаром Русі, фармальна звязанай з Польшчай асабістай уніяй. Гэта выклікала канфлікт з ВКЛ. У жн.—ліст. 1349 К. III пры падтрымцы Залатой Арды, Венгрыі і Мазовіі захапіў амаль усю тэр. былога Галіцка-Валынскага княства, у т.л. Бярэсце. У 1350 войскі ВКЛ вярнулі Бярэсце і Валынь, нават на кароткі час авалодалі Львовам, але Галіччына засталася ў руках К. III. Пасля перыяду збліжэння з ВКЛ (1356—66) К. III зноў пачаў барацьбу за Валынь, якая працягвалася і пры яго наступніку *Людвіку I*.


Пячатка **Казіміра III**.

*Літ.*: Довнар-Запольский М.В. Из истории литовско-польской борьбы за Волынь // Университетские известия. Киев. 1896. № 8; Kaczmarczyk Z. Polska czasów Kazimierza Wielkiego. Kraków, 1964; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев. 1987; Рудзкі Э. Ганна Альдона, дачка Гедыміна, жонка польскага караля Казіміра Вялікага // Спадчына. 1993. № 5.

***Алесь Белы.***

**Казімір IV** Ягелончык (Казімір Андрэй; у ВКЛ Казімір I; 30.11.1427, Кракаў—7.6.1492), вялікі князь літоўскі [1440—92], кароль польскі [1447—92]. Малодшы сын *Ягайлы* і *Соф'і Гальшанскай*. Абраны вял. князем 29.6.1440 пасля забойства *Жыгімонта Кейстутавіча*, у выніку чаго была ліквідавана дзярж. унія з Польшчай. Пасля абрання яго на польскі трон паміж ВКЛ і Польшчай устаноўлена персанальная унія, ВКЛ захавала незалежнасць. Вярнуў у склад ВКЛ з Польшчы Дарагічынскую зямлю (1444), замацаваў у складзе дзяржавы Валынь. Дзеля пашырэння асабістых і маянтковых правоў баяр выдаў *прывілей 1447*. У час панавання К. IV у ВКЛ узмацнілася роля паноў-рады, перыядычна скліkaліся соймы. К. IV вымушаны быў змагацца з апазіцыяй бел.-літ. арыстакратыі. У 1441 групоўка слуцкага кн. Алелькі Уладзіміравіча, якога падтрымалі Ян Гаштольд і інш. літ. паны, вымусіла К. IV перадаць Алельку Кіеўскае княства. Потым К. IV вёў барацьбу з прэтэндэнтам на велікакняжацкі пасад кн. *Міхаілам Жыгімонтавічам*. У 1471 ліквідаваў удзельнае Кіеўскае княства, прызначыў туды свайго ваяводу. За ўдзел у *змове 1481* пакараў смерцю сваіх сваякоў князёў Міхаіла Алелькавіча і Івана Сямёнавіча Гальшанскага. Каб з'яднаць пануючае саслоўе, пачаў раздачу маёнткаў баярам. Выдаў *Судзебнік 1468*, з якога пачалася кадыфікацыя феад. права ў дзяржаве. Знешняя палітыка К. IV на ўсходзе была накіравана на ўтрыманне рус. княстваў у складзе ВКЛ, пашырэнне ўплыву на Ноўгарад і Цвер, канфрантацыю з Маскоўскім княствам з-за рус. зямель, падтрымку ханаў Вял. Арды ў іх барацьбе супраць Масквы, але з-за спраў у Польшчы пацярпеў няўдачу. Створанае пры яго падтрымцы Крымскае ханства з саюзніка ператварылася ў ворага, крымскія татары пачалі сістэматычныя набегі на ўкр. і польскія землі. У Польшчы, абапіраючыся на сярэднюю шляхту, вёў барацьбу з магнацкай апазіцыяй на чале з кракаўскім біскупам кардыналам З.Алясніцкім. У 1454 выдаў Няшаўскія статуты, якімі пашыраліся і ўзмацняліся правы шляхецкіх земскіх соймікаў. Шляхта вызвалялася ад суда каралеўскіх чыноўнікаў, а магнаты пазбаўляліся выключнага права займаць дзярж. пасады. У 1454—66 вёў вайну з Тэўтонскім ордэнам (ВКЛ не ўдзельнічала),


**Казімір IV**. 1605.


Пячатка **Казіміра IV**.

якая скончылася *Тарунскім мірам 1466*, паводле якога Гданьскае Памор'е, Хэлмінская зямля і Вармія былі далучаны да Польшчы. У выніку апошняя атрымала выхад да Балтыйскага мора. Вял. магістр ордэна прызнаў сябе васалам польскага караля. У сваёй дынастычнай палітыцы дамогся выбрання свайго старэйшага сына Уладзіслава каралём Чэхіі, а потым і Венгрыі. Памёр у Гародні. Пахаваны ў Кракаўскім кафедральным касцёле. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 13.

*Літ.*: Любавский М.К. Литовско-русский сейм. М.: 1900; Яго ж. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включательно. 2 изд. М., 1915; Papée F. Polska i Litwa na przełomie wieków średnich. T. 1. Kraków, 1904; Яго ж. Studia i szkice z czasów Kazimierza Jagiellończyka. Warszawa, 1907; Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonow. T. 1. Warszawa, 1930; Яго ж. Polska Jagiellonów. Lwów, 1936; Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. 2. Вып. 1. М., 1939; Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk i jego czasy. Warszawa, 1981.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Казіміраў прывілей**, гл. *Прывілей 1447*.

**Казлоў** Леў Раманавіч (н. 28.7. 1938, в. Ліцвінкі Кобрынскага пав. Палескага ваяв., цяпер Кобрынскі р-н), беларускі гісторык і картограф. Канд. гіст. навук (1970). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1965), дзе з 1969 выкладаў. З 1982 праф., дэкан Мінскага ін-та культуры. З 1991 у Ін-це гісторыі АН Беларусі (старшы навук. супрацоўнік, кіраўнік групы па стварэнні «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі»). З 1993 узначальвае выдавецкую фірму «Арты-Фэкс», гал. рэдактар час. «Падарожнік» і «Наш край». Працы па гіст. геаграфіі і картаграфіі Беларусі. Рэдактар-укладальнік кнігі «Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Кобрынскага раёна» (2002). Складальнік серыйнага выдання «Бібліятэка дасціпнасці» ў 100 кнігах (выдаецца з 2001).

*Тв.*: Вспомогательные исторические дисциплины. Мн., 1980; Карты XVI—XVII вв. как исторический источник по истории Белоруссии // Проблемы исторической географии России. М., 1982. Вып. 3; Музей остроумия. Мн., 1983 (3 выд. 1999); Кобрин: Ист.-экон. очерк. Мн., 1987 (з Н.М.Плiско); З дазволу караля і вялікага князя. Мн., 1992 (2 выд. 1998); Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993 (з А.Цітовым); Беларусь на сямі рубяжах (XI—пачатак XX ст.). Мн., 1998 (2 выд. 2000); Картаграфія Беларусі падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Мн., 2004; Картаграфія Беларусі падчас паўстання 1863—1864 гг. Мн.; Брэст; Кобрын, 2003; Гістарычны атлас Беларусі: (агульнаадукацыйны ілюстраваны). Мн., 2004; Беларусь у працах польскіх картографаў (XVI—XX стст.). Мн., 2004; Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. 1. Мн., 2005.

**Казлоўскі** Восіп (Юзаф) Антонавіч [1757, засценак Казлоўскі Мсціслаўскага ваяв., цяпер Слаўгарадскі р-н — 27.2 (11.3).1831], кампазітар. З бел. шляхты. З 1768 вучыўся ў Варшаўскай капэле пры касцёле св. Яна. У 1773—78 настаўнік музыкі Міхала Клеафаса Агінскага ў Гузаве пад Варшавай, бываў у рэзідэнцыі Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме. У 1780-я г. па запрашэнні Р.А.Пацёмкіна пераехаў у Пецярбург, дзе хутка заваяваў усеагульнае прызнанне і аўтарытэт як кампазітар і арганізатар муз. жыцця рас. сталіцы (з 1799 «інспектар музыкі» імператарскіх тэатраў, з 1803 «дырэктар музыкі»). Тут сустракаўся з Міхалам Клеафасам Агінскім, выдаваў яго творы. У пач. 19 ст. наведваў яго маёнтак Залессе на Гродзеншчыне, напісаў там музыку да спектакля «Дажынкі ў Залессі». Бываў у Гарадзішчы пад Мінскам у сядзібе Ракіцкіх, дзе браў удзел у канцэртах і даваў урокі музыкі Каралю Ельскаму. Пасля 1819 пераехаў у Прапойск (цяпер Слаўгарад), дзе працаваў кіраўніком хору і аркестра графа Мурамцава. Папулярнасць і славу К. як кампазітару прынёс святочны паланэз «Гром перамогі, гучы», напісаны з нагоды ўзяцця Ізмаіла ў 1791, які фактычна стаў дзярж. гімнам Рас. імперыі. Яго творы напісаны пераважна ў новых для тагачаснага рус. муз. мастацтва жанрах: «Рэквіем» (1798, на смерць апошняга караля польскага і вял. князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага), аркестравыя і фартэпіянныя паланэзы, лірычныя песні-рамансы, у т.л. 30 «Расійскіх песень», меладрамы (музыка да трагедый Ж.Расіна, У.Озерава, Я.Княжніна, А.Грузінцава і інш.). К. лічыцца класікам рус. музыкі даглінкаўскай пары, стваральнікам героіка-драматычнага і лірыка-псіхалагічнага кірунку ў сімфанічнай музыцы, з'яўляецца правадніком новых, прынесеных з Захаду жанрава-стылявых плыняў у рус. мастацтве, якія спрыялі яго «вестэрнізацыі» і якаснаму ўздыму. Гал. вобразна-эмацыянальныя сферы музыкі К. — прыўзнята-святочная, трагедыйная («бетховенская») і лірыка-сентыментальная. У творах спалучаюцца рысы класічнага і рамантычнага светаадчування. Творчасць К., знітаваная з культурамі Беларусі, Польшчы і Расіі, з'яўляецца яркім і дасканалым узорам мастацтва пераходнай пары, што падрыхтавала наступленне ўласна рамантычнай эпохі.

*Літ.*: Дадзіёмава В. Восіп Казлоўскі. Мн., 1995.

***Вольга Дадзіёмава.***

**Казлоўскі** (Козловский) Канстанцін Яўгенавіч (?—1874 або 1875), расійскі археограф, гісторык. Працаваў у архіве Мін-ва замежных спраў у Маскве. У 1866—73 часовы памочнік архіварыуса Кіеўскага цэнтр. архіва старaж. актаў. З 1868 чл. Часовай камісіі для разгляду старaж. актаў у Кіеве. Займаўся апісаннем актавых кніг. Выдаў вопісы дакументаў актавых кніг житомірскага гродскага суда № 9 за 1590—1644 (1872) і № 10 за 1605—06 (1878, з Г.В.Данцовым). У 1868 разам з У.Б.*Антановічам* падрыхтаваў зборнік «Граматы вялікіх князёў літоўскіх з 1390 да 1569 г.» («Грамоты великих князей литовских с 1390 по 1569 г.», Кіеў, 1868), дзе змешчаны 64 дакументы. Падбіраў акты для выдання *«Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі»*.

*Тв.*: Подложные документы и фальшивые дворяне в Юго-Западном крае // Киевлянин. 1868. № 96, 97, 99, 100; Судьба малороссийского крестьянства XVII—XVIII в. Киев, 1871; События на Волыни в 1789 году. Киев, 1871.

**Казлоўскі** Павел Рыгоравіч [3(16). 12.1911, Санкт-Пецярбург—19.12. 1996], беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1974). Скончыў БДУ (1960). Да 1941 вучыўся ў Віленскім ун-це, працаваў рэпетытарам і сакратаром у адваката ў Вільні. У Вял. Айч. вайну ў партызанах у Вілейскай вобл. З 1944 у Пракуратуры БССР, у 1957—86 у Ін-це гісторыі АН БССР. Даследаваў гісторыю сельскай гаспадаркі і сялянства Беларусі 17—18 ст. Аўтар прац па крыніцазнаўстве і дэмаграфіі бел. вёскі. Член аўтарскага калектыву «Гісторыі

Беларускай ССР» (т. 1, Мінск, 1972), адзін з рэдактараў і складальнікаў серыі зборнікаў дакументаў *«Інвентары магнацкіх уладанняў Беларусі XVII—XVIII стст.»*. Адзначыў высокую культуру гаспадарання на бел. вёсцы ў 17—18 ст., якая не саступала ўзроўню суседніх краін. Аспрэчваў памылковыя і тэндэнцыйныя меркаванні аб заняпадзе сельскай гаспадаркі Беларусі напярэдадні далучэння бел. зямель да Рас. імперыі. Адзін з перакладчыкаў на бел. мову кнігі «Літоўская гаспадыня» Г.Цюндзявіцкай (Мінск, 1993).

*Тв.*: Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969; Опыт ведения сельского хозяйства Белоруссии второй половины XVIII в., отраженный в инструкциях и распоряжениях магнатов // Из исторического опыта сельского хозяйства СССР. М., 1969; Struktura własności ziemskiej i faktycznego posiadania ziemi w zachodniej i środkowej Białorusi w drugiej połowie XVIII w. // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1972. T. 33; Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974; Мелиорация Полесья в досоветский период // Проблемы Полесья. Мн., 1978. Вып. 5; Отраслевая структура сельского хозяйства в поместьях Белоруссии во второй половине XVIII в. // Проблемы аграрной истории (с древнейших времен до XVIII в.). Мн., 1978. Ч. 1; Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII— первой половине XIX в. Мн., 1982; Пусть знают и помнят потомки: Браславщина в 1941—1944 гг. Мн., 1994 (з П.Я.Сырамахам).

**Казьянскі замак.** Існаваў у 16 ст. на Пн ад в. Казьяны Віцебскага пав. (цяпер Шумілінскі р-н). Пабудаваны ў 1563 у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* паводле загаду цара Івана Грознага як парубежнае ўмацаванне. Планіроўку і памеры замка вызначыў мыс лукавіны р. Обаль. Будынак драўляны, трохвугольны ў плане (50 х 120 х 110 м), з 3 чацверыковымі вежамі (былі падзелены ўнутры на 3 баявыя ярусы), накрытымі 2-схільнымі дахамі. Вежа, размешчаная ў перашыйку лукавіны ракі, мела арачны праезд, астатнія — «глухія», стаялі на паўкруглых у плане падмурках, прарэзаных круглымі байніцамі ў верхняй частцы. Цэнтр. частку ўнутранай прасторы замка займала жылая забудова. Замак разбураны ў 1579 войскамі Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Сапунов А.П. Рисунки крепостей, построенных по повелению царя Ивана Васильевича Грозного после завоевания Полоцка в 1563 году // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 2.

***Юрый Якімовіч.***




**Казьянскі замак**. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

**каймінцы**, катэгорыя феадальна-залежных сялян у Літве ў 13—16 ст. У прыгон трапляді шляхам эканам. падпарадкавання. Мелі ўласную гаспадарку, але не былі землеўладальнікамі, карысталіся падворнымі надзеламі і былі асабіста залежныя ад пана. Ад чэлядзі нявольнай адрозніваліся тым, што павіннасці неслі не ад членаў сям'і паасобку, а ад гаспадаркі ў цэлым, таму К. паасобку не прадаваліся і не купляліся. Пасля валочнай памеры сярэдзіны 16 ст. зліліся з асн. масай феадальна-залежнага насельніцтва.

**Каладынскі** Андрэй (Казьма), беларускі дзеяч Рэфармацыі 16 ст. Быў правасл. дыякан з Віцебска. Меркаваны аўтар апакрыфічнага «Пісьма полаўца Івана Смеры». У 1567 нібыта знайшоў у Перамышльскай зямлі пісьмо полаўца Івана Смеры, «урача, вучонага і годнага чалавека», адпраўленага вял. князем кіеўскім Уладзімірам у 10 ст. ў Візантыю з заданнем апісаць звычаі і стан «грэчаскай» (хрысціянскай) веры. У пісьме да князя рэзка крытыкуецца візантыйскае хрысціянства за «ідаласлужэнне», раскошу, карыслівасць, трыманне «народа ў рабстве». Адначасова з задавальненнем гаворыцца пра існаванне ў Александрыі сапраўдных хрысціян-праведнікаў, у малітоўных дамах якіх «няма ніякіх ідалаў, а толькі сталы і лавы». «Пісьмо...» у перакладзе на латынь было апублікавана ў 1675 у кнізе па царк. гісторыі Хрыстафора Сандзіуса і ў 1679 у «Чатырох кнігах аб славянскай рэфармацыі» польскага пратэстанцкага гісторыка Андрэя Вянгроўскага. Да 18 ст. храністы і гісторыкі верылі ў праўдзівасць «Пісьма». М.М.Карамзін першы дапусціў, што гэта фальсіфікацыя, І.І.Малышэўскі ў 19 ст. абгрунтаваў, што аўтар гэтага твора сам К. Як прадстаўнік антытрынітарызму К. ў «Пісьме» фактычна проціпастаўляў дагматычнаму хрысціянству (праваслаўю і каталіцтву) ідэалы радыкальнага пратэстантызму. На думку Малышэўскага, К. ідэнтычны сацыніяніну Кузьме-Андрэю з паслання Арцемія С.Буднаму: «И се товарищ ваш Козма: егоже вы нарекаете Андрея: в Витебску ясно объявил нынешния ереси проповедени: не треба глаголя Троицу именовати... И лист показал тот Козма: яко от вашея сонмища послан з Вильна...». Відаць, К. належаў да паслядоўнікаў рус. ерэтыка Ф.*Касога*, які ў 1550-я г. пасяліўся каля Віцебска.

*Літ.*: Малышевский И. Подложное письмо половца Ивана Смеры к великому князю Владимиру Святому // Тр. Киев. дух. акад. 1876. Т. 2—3; Дмитриев М. Белорусский скептик XVI в. // Наука и религия. 1984. № 4.

***Юрый Бажэнаў.***

**Каламайска-Саед** (Kałamajska-Saeed) Марыя (н. 30.9.1941, г. Торунь, Польшча), польскі мастацтвазнавец. Д-р гісторыі мастацтва (1990). Скончыла Варшаўскі ун-т (1964). Працуе ў Ін-це мастацтва Польскай АН у Варшаве. Гал. рэдактар «Каталога помнікаў мастацтва ў Польшчы» («Katalog zabytków sztuki w Polsce»). З 1994 эксперт урадавых польска-беларускай, з 2000 і польска-літоўскай камісій па справах агульнай культ. спадчыны. Рэдактар і аўтар тамоў, якія датычацца ВКЛ, у рамках серыі «Матэрыялы да гісторыі сакральнага мастацтва на ўсходніх землях былой Рэчы Паспалітай» («Materiały do dziejów sztuki sakralnej na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej», выд. з 2003 Міжнар. цэнтрам культуры ў Кракаве), складальнік «Іканаграфіі Сапегаў» («Ikonografia Sapiehów», улічана больш за 700 партрэтаў 17—20 ст.).

*Тв.*: Ostra Brama w Wilnie. Warszawa, 1990; Wilno jako ośrodek graficzny XVII w. // Biuletyn historii sztuki. 1993. № 2/3; Ołtarz w Budsławiu // Niderlandyzm w sztuce

polskiej. Warszawa, 1995; Freski kościoła bernardynów w Budsławiu // Sztuka kresów wschodnich. Kraków, 1996. T. 2; Portrety i zabytki książąt Olelkowiczów w Słucku: Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. Warszawa, 1996; Warszawskie doświadczenia w badaniach sztuki Białorusi i Litwy // Przegląd Wschodni.1999. T. 6, z. 1(21); Cudowne obrazy Matki Boskiej Nowogródzkiej // Wilno i ziemia mickiewiczowskiej pamięci. Białystok, 2000. T. 1; Kościół brygidek w Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Gemeinsames Kulturerbe — der Umgang mit den Monumenten des Wilnaer Barock im 19. und 20. Jahrhundert // Barocke Sakralarchitektur in Wilna. Marburg, 2002; Cudowny obraz Matki Boskiej Studenckiej z kościóła jezuitów w Grodnie // Roczniki Humanistyczne KUL. 2002. T. 50, z. 4; Kronika klasztoru bernardynek św. Michała w Wilnie // Nasza przeszłość. 2004. T. 101.

**Калантай** Гуга (1.4.1750, в. Вял. Дэдэркалы, цяпер у Шумскім р-не Цярнопальскай вобл., Украіна — 28.2.1812), палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, філосаф, педагог, публіцыст. З шляхецкага роду ВКЛ. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це, у Італіі (1772—74). Д-р філасофіі і тэалогіі. З 1774 канонік кракаўскі. Актыўны дзеяч *Адукацыйнай камісіі*. Распрацаваў план развіцця адукацыі ў Рэчы Паспалітай, які стаў асновай статута камісіі. У 1782—86 рэктар Кракаўскага ун-та, прыклаў шмат намаганняў да яго рэфармавання на аснове ідэй Асветніцтва. З 1787 рэферэндар ВКЛ, пераехаў у Варшаву, дзе актыўна заняўся паліт. дзейнасцю, згуртаваў кола сваіх прыхільнікаў, т. зв. «кузня Калантая». Лідэр рэфарматарскай плыні ў час працы *Чатырохгадовага сойма 1788—92*. Адзін з аўтараў *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Прыхільнік ідэі вызвалення сялян ад прыгону, забеспячэння правоў мяшчан і абмежавання ўлады духавенства. Падтрымліваў ідэю цэнтралізацыі Рэчы Паспалітай праз больш цеснае аб'яднанне ВКЛ з Польшчай. Гал. арганізатар «Згуртавання сяброў урадавай канстытуцыі», якое планавала прадоўжыць справу рэфармавання дзяржавы. З мая 1791 каронны падканцлер. Пасля перамогі антырэфарматарскай прарасійскай *Таргавіцкай канфедэрацыі* ў эміграцыі. Адзін з вядучых ідэолагаў, потым кіраўнік «левага» («якабінскага») крыла ў *паўстанні 1794*, арыентаваўся на цесныя сувязі з рэв. Францыяй. Разам з І.Патоцкім ініцыятар місіі Т.Касцюшкі ў Парыж (пач. 1793). Удзельнічаў у складанні Кракаўскага акта паўстання, *Паланецкага універсала*, пастановы аб надзяленні зямлёй сялян, якія бралі ўдзел у паўстанні. Узначальваў аддзел скарбу (фінансаў) у Найвышэйшай нац. радзе. Канфлікт на пачатку паўстання паміж Касцюшкам і Найвышэйшай літ. радай імкнуўся ўладзіць шляхам уніфікацыі Віленскага акта з Кракаўскім. Пасля паражэння паўстання быў у аўстрыйскім зняволенні (снеж. 1794—ліст. 1802). У 1802—06 жыў на Валыні, адзін з заснавальнікаў Крэменецкага ліцэя. Спрабаваў прыняць удзел у арганізацыі работы Віленскага ун-та, але з палітычных меркаванняў А.Чартарыйскі і рэктар ун-та Г.Страйноўскі не пажадалі яго ўдзелу. У студз. 1807—маі 1808 паводле загаду Аляксандра I знаходзіўся ў Маскве пад наглядам. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве. Пакінуў багатую філасофскую і публіцыстычную спадчыну: «Да Станіслава Малахоўскага... некалькі лістоў Ананіма» (1788—89), «Палітычнае права польскага народа» (1790), «Пра ўзнікненне і заняпад Канстытуцыі 3 мая» (1793, разам з Патоцкім і Ф.Дмахоўскім), «Стан асветы ў Польшчы ў апошнія гады панавання Аўгуста III» (1841), «Крытычны агляд асноў гісторыі пра пачаткі чалавечага роду» (1942) і інш. Яго працы заснаваны на перадавых на той час ідэях Асветніцтва, вучэнні французскіх фізіякратаў, эвалюцыйнай канцэпцыі развіцця грамадства.

*Тв.*: Korespondencya listowna z T.Czackim... T. 1—4. Kraków, 1844—45; Listy pisane z emigracji. T. 1—2. Poznań, 1872; Wybór pism politycznych. Wrocław,1952; Wybór pism naukowych. Warszawa, 1953; Stan oświecenia w Polsce w ostatnich latach panowania Augusta III (1750—1764). Wrosław, 1953; Listy Anonima i Prawo polityczne narodu polskiego. T. 1—2. Kraków, 1954.

*Літ.*: Tokarz W. Ostatnie lata Hugona Kołłątaja (1794—1812). T. 1. Kraków; Warszawa, 1905; Leśnodorski B. Polscy jakobini. Warszawa. 1960; Hinz H. Filozofia Hugona Kołłątaja: Zarys monografii, Warszawa, 1973; Pasztor M. Hugo Kołłątaj na sejmie Wielkim w latach 1791—1792. Warszawa, 1991.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**каланыя** (ад цюрск. калан — падушны падатак), катэгорыя цяглых слуг на Украіне ў 15—16 ст. Былі людзьмі несвабоднымі, але вышэйшымі па статусе за рабоў: мелі права сведчыць у судзе, заключаць некаторыя грамадзянскія здзелкі, весці працэсы па маёмасных справах праз упаўнаважаных. За выкананне службы карысталіся надзелам зямлі, першапачаткова без выплаты падаткаў. У 16 ст. былі абавязаны плаціць падымны і інш. падаткі, выконвалі замкавую службу.

*Літ.*: Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Литовский период. Одесса, 1912. С. 528—531.

**Каласок** (Колосок) Багдан Віталевіч (н. 19.5.1940, г. Луцк, Украіна), украінскі гісторык архітэктуры. Канд. архітэктуры (1981). Скончыў Кіеўскі інжынерна-будаўнічы ін-т (1963). Да 1970 працаваў у Луцку архітэктарам. З 1970 у НДІ тэорыі, гісторыі архітэктуры і горадабудаўніцтва ў Кіеве (аспірант, малодшым навук. супрацоўнік, вучоны сакратар, вядучы навук. супрацоўнік). З 1992 заг. сектара, вучоны сакратар Цэнтра помніказнаўства Нац. АН Украіны і Укр. таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. З 2003 намеснік дырэктара НДІ тэорыі, гісторыі архітэктуры і горадабудаўніцтва. Чл. Нац. саюза архітэктараў Украіны (1968), чл. Укр. аддзялення Міжнар. савета па помніках і гіст. мясцінах (1994). Даследуе горадабудаўнічую спадчыну Луцка і інш. Дзярж. прэмія ў галіне архітэктуры і горадабудаўніцтва імя Л.Маслава (1999).

*Тв.*: Луцьк: Історико-архітектурний нарис. Київ, 1972 (у сааўт.); Луцький історико-культурний заповідник. Київ, 1987 (з А.М.Якубюком); Луцьк: Історико-архітектурний нарис. Київ, 1990 (з Р.Г.Мецяльніцкім); Ecclesia cathedralis Luceoriensis. Кафедральні споруди Луцька. Білий; Дунаєць; Острїг, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**калегіумы**, навучальныя ўстановы ў ВКЛ у 16—18 ст. Найб.пашыраны былі К. ордэна *езуітаў*. Давалі класічную гуманітарную адукацыю. У іх прымалі дзяцей з розных саслоўяў (пераважна са шляхты) і неабавязкова каталіцкага веравызнання (схіленне ў каталіцтва прадугледжавалася ўсім ходам выхавання). Навучанне было бясплатнае. Выпускнікі маглі заставацца свецкімі асобамі або належаць да інш. каталіцкіх арганізацый. На чале К. стаяў рэктар, навучальна-выхаваўчым працэ-

сам загадваў яго памочнік — прэфект. Найб. вядомым тыпам езуіцкіх К. былі сярэднія 5-класныя гімназіі з тэрмінам навучання 6—7 гадоў. Першыя 3 класы называліся ніжэйшай школай або граматычнымі класамі, іх задачай было навучанне лацінскай граматыцы і падрыхтоўка да далейшага курса красамоўства. 1-ы клас езуіцкіх К. называўся «infima classis grammaticae (ніжэйшая граматыка) або проста інфіма (infima). Часам яго праграма расцягвалася на 2 гады (1-я частка — infima minor, 2-я — infima major). Вучні чыталі нескладаныя лісты Цыцэрона і эпіграмы. Выкладаліся таксама асновы грэчаскай мовы. У вялікіх К. інфіме папярэднічаў падрыхтоўчы клас праформа (proforma), у якім дзяцей вучылі чытаць і пісаць. 2-і клас называўся сярэдняя граматыка (media grammaticae) або проста граматыка. У ім завяршалася элементарнае навучанне лацінскай граматыцы, чыталіся «Лісты да сяброў» Цыцэрона, некаторыя творы Цэзара, «Журботныя элегіі» Авідзія. Выкладанне грэч. мовы даводзілася да ўзроўню сінтаксіса. 3-і клас называўся вышэйшая граматыка (suprema classis grammaticae). У ім вучні ўдасканальвалі свае веды ў лацінскай мове, вывучалі лісты Цыцэрона да Атыка і Квінта, трактаты «Аб сяброўстве», «Аб старасці», элегіі Авідзія, «Энеіду» Вергілія, асобныя творы Катула, Праперцыя і інш. Вучні павінны былі пераказаць змест, адказаць на пытанні і перакласці тэкст на польскую мову. Яны вывучалі поўны аб'ём граматыкі грэчаскай мовы. Пасля заканчэння ніжэйшай школы вучань пераходзіў у клас паэзіі (humanitas). У спісе л-ры для чытання былі прамовы Цыцэрона, «Энеіда» і «Оды» Гарацыя, «Запіскі аб Гальскай вайне» Цэзара, «Эпіграмы» Марцыяла і інш. Для практыкі ў грэчаскай мове прапаноўваліся ўрыўкі з твораў Платона, Плутарха. Пры вывучэнні мастацкіх твораў звярталася ўвага на літ. дасканаласць, аратарскія вартасці, мастацкія асаблівасці і г.д. Завяршаўся курс 2-гадовым класам рыторыкі, які прадугледжваў азнаямленне з тэорыяй аратарскага мастацтва, выпрацоўку ўласнага стылю мовы, далейшае вывучэнне твораў лац. і грэч. аўтараў, а таксама айцоў царквы. Вял. значэнне надавалася ўменню весці дыспуты, арганізоўваліся тэатральныя пастаноўкі. Увесь навуч.-выхаваўчы працэс быў прасякнуты рэлігійнай накіраванасцю. Вывучаліся таксама гісторыя, геаграфія, фізіка, логіка і астраномія, якія ў праграме асобна не вылучаліся. Існавалі таксама К. з дадатковым 3-гадовым курсам філасофіі і 4-гадовым курсам тэалогіі, якія лічыліся вышэйшымі. Тэалогію вывучалі толькі члены ордэна і кандыдаты ў духоўны сан. К. былі лепшымі на той час навуч. ўстановамі ў свеце, садзейнічалі ўсталяванню ў ВКЛ зах.-еўрап. сістэмы адукацыі. У ВКЛ і на залежных тэрыторыях езуіцкія К. існавалі ў гарадах і мястэчках: Берасці, Вільні, Віцебску, Гародні, Дорпаце, Дынабургу, Жодзішках, Ілукшце, Коўне, Крожах, Менску, Навагародку, Новай Мышы, Нясвіжы, Оршы, Пашаўшах, Пінску, Полацку, Рызе, Слуцку, Смаленску. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) іх К. ў Рэчы Паспалітай зачынены і перададзены *Адукацыйнай камісіі*.

З канца 17 ст. ў ВКЛ пашыраліся таксама К. ордэна *піяраў*. Праграма навучання і ўнутраная будова былі на ўзор езуіцкіх К. (пасля скасавання езуітаў піяры фактычна выконвалі іх адукацыйныя функцыі). У 1740—50-я г. па ініцыятыве правінцыяла ордэна асветніка і педагога С.*Канарскага* праведзена рэформа піярскіх К.: скарочаны курс тэалогіі, уведзена выкладанне польскай мовы, грамадскіх і прыродазнаўчых навук. Найб. значныя К. піяраў былі ў Вільні, Віцебску, Воранаве, Геранёнах, Дуброўне, Лідзе, Лужках, Любяшове, Полацку, Шчучыне.

Існавалі К. і некаторых інш. ордэнаў, напр., К. дамініканцаў у Вільні і Забелах. На Украіне былі К. і пад патранатам правасл. царквы — у Кіеве (пасля *Кіева-Магілянская* акадэмія) і Чарнігаве (1700—76, потым — духоўная семінарыя), дзе вучылася многа выхадцаў з Беларусі.

*Літ.*: Bednarski S. Upadek i odrodzenie szkół jezuickich w Polsce. Kraków, 1933; Жлутко А. Езуіты на Беларусі: пошукі праўды // З гісторыяй на «Вы». Мн., 1994. Вып. 2.

***Тамара Блінова.***

**Календа** Гаўрыіл (Габрыэль; каля 1606, Вільня—18.11.1674), дзеяч уніяцкай царквы. З бел. шляхецкага роду герба «Бэлты». У 1626 уступіў у ордэн базыльян. Вучыўся ў калегіумах




Гаўрыіл **Календа**.

Брунсберга (цяпер г. Бранева, Польшча; 1627—30), Вены і Рыма (1633—39). З 1633 святар. У 1642—55 пры мітрапаліце Антонію Сяляве, з 1653 кад'ютар (пам.-намеснік) полацкага архіепіскапа. Архіепіскап полацкі (1655—74), адміністратар Кіеўскай мітраполіі (1655—65). Протаархімандрыт базыльянскага ордэна (1666—74), архімандрыт супрасльскі, беразвецкі, ляшчынскі. Мітрапаліт кіеўскі і галіцкі (1665—74). Дзейнасць К. прыпала на час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, калі на тэр., занятай маскоўскімі войскамі і казакамі, уніяцкія цэрквы скасоўваліся, а на зах. землях ВКЛ рымска-каталіцкія біскупы імкнуліся падпарадкаваць уніятаў сваёй уладзе. Ва ўмовах няпэўнасці рымскі папа Аляксандр VII не зацвярджаў К. мітрапалітам. Да 1660, ратуючыся ад рас. і шведскіх войск, К. вандраваў па гарадах ВКЛ. У 2-й пал. 1660-х г. пераломы ў настроях шляхты на карысць уніі і асабістыя намаганні К. паспрыялі его зацвярджэнню мітрапалітам і выданню ў 1667—68 каралём і соймам пастаноў, якія аднаўлялі правы грэка-каталіцкай іерархіі і гарантавалі перадачу ім незанятых правасл. епархій. Дамогся вяртання царк. маёмасці, страчанай у час вайны, заключыў з рымска-каталіцкай царквой пагадненне аб забароне лацінскім ксяндзам браць дзесяціну з уніятаў. Унутры царквы імкнуўся да адзінаўладдзя. У 1660-я г. ўвайшоў у сутыкненне з базыльянамі: вывеў

з падпарадкавання ордэну шэраг манастыроў і зрабіў іх архімандрыямі, перадаўшы епіскапам. У 1661 на Супрасльскай капітуле самачынна спрабаваў абвясціць сябе протаархімандрытам — галавой ордэна базыльян, аднак гэта рашэнне было скасавана рымскім папам Аляксандрам VII. У 1666 на Берасцейскім капітуле для захавання ўнутрыцарк. спакою зноў абраны протаархімандрытам базыльян. Падтрымка ім у гэты перыяд ордэна і перадача яму архімандрый выклікала канфлікт з епіскапатам. Спробы К. адлучыць нязгодных архірэяў ад царквы і ўсталяваць неабмежаваную ўладу зноў былі спынены папствам. Пахаваны ў Полацку.

*Літ.*: Коялович М.И. Литовская церковная уния. Т. 2. СПб., 1861; Долматов Н. Супрасльский Благовещенский монастырь... СПб., 1892; Historia Kościoła w Polsce. T. 1, cz. 2. Poznań; Warszawa, 1974.

***Сяргей Казуля.***

**календары**, выданні ў выглядзе табліц або кніжак, у якіх змешчаны пералік месяцаў года, дзён тыдня, святы, астранамічныя, гістарычныя, статыстычныя і інш. звесткі. У Кіеўскай Русі пасля прыняцця хрысціянства рукапісныя каляндарныя звесткі складалі духоўныя асобы. Гэта былі святцы для вызначэння пераходных свят і Вялікадня. У краінах Зах. Еўропы альманахі-К. паявіліся амаль адначасова з друкаванымі Бібліямі. Першы нар. К. выйшаў у Парыжы ў 1493. У Польшчы з 15 ст. складаліся астранамічныя К., у 16 ст. з'явіліся К. з прадказаннямі. Астролагі вызначалі на кожны год планету, паводле якой прадказвалі ўраджай, здароўе, мір ці вайну, лёс народаў і г.д. Найдаўнейшыя свецкія К. пісалі найчасцей медыкі, бо медыцына ядналася з астралогіяй. У іх былі прагностыкі, парады для здароўя. Вытокі бел. друкаванага К. ў «Пасхаліі», заключнай частцы «Малой падарожнай кніжкі» Ф.Скарыны (Вільня, каля 1522). Гэта першы ўсх.-слав. друкаваны царк.-астранамічны К. на 1523—43. Пасля Берасцейскай уніі 1596 К. ў ВКЛ выходзілі на польскай мове. Ёсць звесткі, што ў *Любчанскай друкарні* ў 1650-я г. некалькі разоў выходзіў «Каляндар штогодніх свят і рухаў нябесных цел» С.Фурмана (пакуль не выяўлены). У архіве Радзівілаў збярогся рахунак Слуцкай друкарні за 1673—69, у якім значацца «календары ў чацвёрку фармату — 1000 экзэмпляраў, календары меншыя — 2000 экзэмпляраў» (не знойдзены). Першы рас. друкаваны К. «Святцы, або Каляндар» выдадзены ў Амстэрдаме ў 1702 беларусам І.Ф.*Капіевічам*. У канцы 17—1-й пал. 18 ст. на Беларусі распаўсюджваліся К., што выдаваліся ў Кракаве: «Рымскі і рускі каляндар» на 1690—1724 Ф.Нявескага, «Каляндар польскі і рускі» на 1707—20 М.Кіцінскага, на 1708 і 1718 К.Кастоўскага, на 1747—59 Я.Негавецкага і інш. Яны змяшчалі статыстычныя, гіст., геаграфічныя і інш. звесткі і пра Беларусь. З 1713 у *Супрасльскай друкарні* выдаваўся «Каляндар польскі і рускі» (на польскай мове), у якім змяшчаліся і розныя гіст. матэрыялы («Аб літоўскім народзе», «Працяг літоўскай гісторыі» са звесткамі пра стараж. бел. гарады Берасце, Новагародак, Полацк, Тураў, пра крыж Ефрасінні Полацкай), гаспадарчая інфармацыя (спісы кірмашоў у Польшчы і ВКЛ, звесткі пра кірмашы Менску, Полацку, Бешанковічах і інш.). Вядомы былі К. рэктара Слуцкага езуіцкага калегіума Я.А.*Пашакоўскага*, які першы пачаў выдаваць палітычны К., у 1737—49 рэдагаваў іх, змяшчаючы звесткі па ўсеагульнай і царк. гісторыі, па гісторыі і культуры Беларусі, Літвы, Польшчы. Ён выдаў «Каляндар палітычны і гістарычны» на 1737—39, «Каляндар езуіцкі большы Літоўскай правінцыі», «Каляндар езуіцкі меншы Літоўскай правінцыі», «Францысканскі каляндар» (усе на 1740), «Каляндар шаноўных дам» на 1741. Пасля яго К. ў Вільні рэдагаваў праф. Віленскай акадэміі Ф.*Папроцкі*, у канцы 18 ст. — астраном М.Пачобут-Адляніцкі.




Да арт. **Календары**. «Каляндар гаспадарчы». Гародня, 1780.


KALENDARZ
POLSKI, Y RUSKI,
SWIĘTA ROCZNE
BIEGI Mieśięczne. SIGNA Zodiaci.
Aſpekta, Wybory.
PROGNOSTYK GENERALNY, Y PARTYKULARNY W SOBIE ZAWIERAIĄCY.
A ná Rok Páńſki 1714.
Po przeſtępnym Wtory
Przez
JANA RETZENA, ASTROLOGA PRUSKIEGO.
z wielką czułością
Wyrachowany
Y do Druku podany.
W SUPRASLU,
W Drukarni WW. OO. Bazylianow Vnitow.

Да арт. **Календары**. «Каляндар польскі і рускі». Супрасль, 1714. Тытульны ліст.

З 1730-х г. у ВКЛ пашыраліся К., выдадзеныя ў Варшаве на ўзор віленскіх езуіцкіх, дзе перадрукоўваліся і віленскія К. Пашакоўскага. Напр., «Каляндар рымскі і гістарычны» на 1742 быў працягам віленскага на 1741 і змяшчаў спіс саноўнікаў польскіх і ВКЛ. У 1759 у Вільні выйшаў «Палітычны каляндар з апісаннем вераў, што ёсць у Еўропе». З 1760 выходзіў «Каляндар віленскі» са спісамі ўлад, гіст. і геаграфічнымі звесткамі пра Карону і ВКЛ; змясціў каляровую карту ВКЛ, вытрымкі з канстытуцыі Гарадзенскага сойма 1784. У канцы 18 ст. ў Гародні і Вільні Т.Дубіткоўскі выдаваў на польскай мове «Каляндар гаспадарчы» (1776—1800), у якім падаваліся прагностыкі, спісы кірмашоў у Польшчы, ВКЛ і суседніх дзяржавах. З 1752 К. ў Варшаве выдавалі піяры, якія з 1754 друкавалі ў іх дні публічных з'ездаў у Кароне і ВКЛ, гіст. і статыстычныя артыкулы, у т.л. спісы маршалкаў гал. трыбуналаў, падскарбіяў, звесткі пра сельскія і гар. ўлады, пастановы Гарадзенскага сойма 1793. У ВКЛ прадавалі «Каляндар палітычны для каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага» (1774—94), «Каляндарык, цікавы для Каралеўства Польскага і Вя-



лікага княства Літоўскага» (на 1776), «Новы эканамічны каляндар для гаспадароў у Кароне і Вялікім княстве Літоўскім» (на 1776), «Каляндар краёвы і замежны для Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага» (на 1793).

*Літ.*: Мальдзіс А. Першыя календары Беларусі // Літаратура і мастацтва. 1970. 7 жн.; Яго ж. Календары, выдадзеныя ў Беларусі ў XVIII ст. // Книговедение в Белоруссии. Мн., 1977; Голенченко Г.Я. «Календарь» Франциска Скорины // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976.

***Янка Саламевіч.***

**Калімах** (Kallimach, Callimachus; сапр. Філіп Буанакорсі; 2.5.1437, Сан-Жыміньяна каля Фларэнцыі—31.10. 1496), гуманіст, гісторык, палітык, паэт. Паходзіў з незаможнай купецкай сям'і. На мяжы 1469—70 прыехаў у Польшчу. Напачатку быў пры двары біскупа Рыгора з Санака, з 1472 выкладчык Кракаўскай акадэміі. З 1474 сакратар і выхавальнік дзяцей Казіміра IV Ягелончыка, потым пры двары Яна II Альбрэхта. Удзельнічаў у выпрацоўцы дзярж. палітыкі Ягелонаў, выступаў за моцную каралеўскую ўладу. Аўтар палітычных і гіст. твораў, у якіх упершыню ў Польшчы выказваліся гуманістычныя рэнесансавыя погляды. Аўтар гіст. прац «Атыла» (1489), «Гісторыя караля Уладзіслава» (Аўгсбург, 1518; апалогія Уладзіслава III Варненчыка, прысвечаная бітве аб'яднанай арміі хрысціянскіх дзяржаў з туркамі пад Варнай у 1444). Гісторыю разумеў як ланцуг заканамерных змен, падкрэсліваў свецкія і натуральныя фактары гіст. працэсу. Крытыкаваў «Хроніку» В.*Кадлубака*. Разам з Я.*Длугашам* вызначыў далейшы шлях развіцця польскай гістарыяграфіі.

*Тв.*: Historia de rege Vladislao. Varsoviae, 1961; Attila. Varsoviae. 1962; De his quae a Venetis tentata sunt Persis ac Tartaris contra Turcos movendis. Varsoviae, 1962; Vita et mores Sbignei cardinalis. Varsoviae, 1962; Vita et mores Gregorii Sanocei. Varsoviae, 1963.

*Літ.*: Olkiewicz J. Kallimach doświadczony. Warszawa, 1981; Kotarska J. Poeta i historyk — Filip Kallimach // Pisarze staropolscy: Sylwetki. Warszawa, 1991. T. 1.

**Калінка** (Kalinka) Валяр'ян (20.11. 1826, в. Балехавіцы каля Кракава—16.12.1886), польскі гісторык, публіцыст, палітычны дзеяч. Скончыў Кракаўскі ун-т (1845). Удзельнік Кракаўскага паўстання 1846, да 1848 у эміграцыі ў Бельгіі і Галандыі. Палітычныя погляды К. эвалюцыяніравалі ад дэмакратычна-рэвалюцыйных да шляхецка-кансерватыўных. У 1848—52 супрацоўнік кракаўскага час. «Czas» («Час»), потым зноў у эміграцыі, пераважна ў Францыі, дзе разам з палітычнай дзейнасцю заняўся гісторыяй. Быў звязаны з «Атэлем Лямбэр» (кола кансерватыўных эмігрантаў на чале з Чартарыйскім), адзін з рэдактараў яго час. «Wiadomości polskie» («Польскія навіны»). Чл. гіст.-літаратурнага таварыства ў Парыжы. У 1862 аддаліўся ад Чартарыйскіх і пераехаў у Рым для архіўных пошукаў, аднак з пачаткам паўстання 1863 вярнуўся ў Францыю і працаваў у Гал. дыпламатычным агенцтве Нац. ўрада. У 1868 у Рыме ўступіў у ордэн Уваскрэсення Божага, з 1870 святар. Вывучаў пераважна палітычную гісторыю Рэчы Паспалітай 18 ст. Вял. ўвагу аддаваў даследаванню псіхалагічных асаблівасцей палітычных дзеячаў, быў схільны да маралізатарства. Лічыцца бацькам кракаўскай школы гісторыкаў з яе «песімістычным» поглядам на гісторыю. Вядомасць К. прынесла праца «Апошнія гады панавання Станіслава Аўгуста» (т. 1—2, 1868), дзе даказвалася, што крызіс і крах Рэчы Паспалітай быў выкліканы маральным заняпадам народа. Працягам яе з'явілася даследаванне «Чатырохгадовы сойм» (т. 1—3, 1880—88).

*Тв.*: Dzieła. T. 1—12. Kraków, 1891—1902; Sejm czteroletni. T. 1—2. [4 wyd.] Warszawa, 1991.

*Літ.*: Mrówczyński O.J. Ks. Walerian Kalinka: życie i działalność. Poznań, 1972 (змешчана бібліяграфія прац К.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Калінкавічы** (цяпер горад, цэнтр Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска ў Мазырскім пав. Менскага ваяв. Упершыню ўпамінаецца як вёска Каленкавічы Багрымавіцкага староства ў акце рэвізіі Мазырскага пав. 1560, прыводзіцца апісанне межаў вёскі. У 1582 упамінаецца ў межавай справе паміж маёнткам Гарбавічы, які належаў Аскеркам, і Багрымавіцкім староствам. 16.5.1774 складзены акт размежавання вёсак Гулевічы і Каленкавічы. У 1778 у вёсцы 25 хат; цэнтр Каленкавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Калінкавіцкага р-на. Мн., 1999.

**Калінскі** Вільгельм (6.3.1747, Варшава — 20.1.1789), дзеяч каталіцкай царквы, педагог. Д-р тэалогіі (1783). З шляхецкага роду. З 1762 у ордэне ксяндзоў-місіянераў. Вучыўся ў Сандаміры і Варшаве. З 1772 святар, праф. Семінарыі Свентакшыскага ў Варшаве. З 1774 праф. гісторыі царквы ў Віленскай семінарыі, адначасова цэнзар. Быў дарадцам біскупа І.*Масальскага* ў справах асветы і царквы. Разам з Т.*Гусаржэўскім* рэфармаваў семінарыю. З 1782 выкладаў на кафедры гісторыі царквы і маральнай тэалогіі ў Гал. школе ВКЛ. Аўтар шматлікіх моў і казанняў, у т.л. З моў да сялян *Паўлаўскай рэспублікі*, у якіх падтрымаў рэформы П.К.Бжастоўскага, заклікаў сялян да сумленнасці, працавітасці і г.д.

*Тв.*: Początki historii naturalnej dla dzieci. Wilno, 1780; Kazania i mowy. T. 1—2. Warszawa, 1791 (3 wyd. 1808).

**Каліст** Дарафеевіч-Рытарайскі; ?—не раней 1664), дзеяч праваслаўнай царквы. Відаць, родам з Украіны. Ігумен *Віцебскага Маркава манастыра*. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* намеснік Полацкай епархіі (прызначаны ў 1656 маскоўскім патрыярхам Ніканам). З 1657 епіскап полацкі і віцебскі (з часовым далучэннем да епархіі сумежных Магілёўскага і Ашмянскага пав.). Актыўны праваднік царк. палітыкі царскага ўрада на Беларусі (рэвізія стаўленых грамат правасл. святароў, забарона уніяцкага набажэнства, вяртанне маёнткаў, якія перайшлі да каталіцкай або уніяцкай царквы і інш.). Удзельнік Маскоўскага сабора 1660 па справе Нікана. Аўтар шэрагу літ.-публіцыстычных твораў.

***Валерый Антонаў.***

**Каліцкі** (Kalicki) Бярнард (20.5. 1840, в. Кураны Беражанскага пав., цяпер у Цярнопальскай вобл., Украіна—21.4.1884), польскі гісторык, публіцыст. Скончыў Львоўскі ун-т. Працаваў у Б-цы Нац. цэнтра імя Асалінскіх, у Краявым аддзеле ў Львове. За дапамогу паўстанцам у 1863 зняволены, пазней зблізіўся з кансерватыўнымі коламі. З 1857 навук. сакратар К.Шайнохі. Аўтар нарысаў па гісторыі Рэчы Паспа-

літай 16—17 ст., біяграфій Багуслава і Януша Радзівілаў, навук.-папулярных прац.

*Тв*: Zarysy historyczne. Lwów, 1869; Bogusław Radziwiłł, koniuszy litewski: Szkic historyczny. Kraków, 1878.

**Калнін** Валянцін Валянцінавіч (н. 13.3.1942, пас. Ігнатаўка Майнскага р-на Куйбышаўскай вобл., цяпер Ульянаўская вобл., Расія), беларускі гісторык архітэктуры. Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1966). З 1966 працаваў у Інце «Белдзяржпраект», з 1970 старшы архітэктар, заг. аддзела, вядучы мастацтвазнавец Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та, у 1997—2002 намеснік дырэктара па навуцы Бел. дзярж. музея нар. архітэктуры і побыту. Даследуе палацава-замкавую архітэктуру 16—18 ст. (ансамблі ў г.п. Мір і г.п. Ружаны), культавае будаўніцтва 17 ст. (картэзіянскі кляштар у г. Бяроза), горадабудаўніцтва 18 ст. (Гарадніца ў г. Гродна).

*Тв.*: Оборонный вал в Заславле // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; Мирский замок. Мн., 1986; Гісторыка-археалагічныя даследаванні Бярозаўскага кляштару картузаў // З глыбі вякоў: Наш край. Мн.,1992 (з А.Дзярновічам); Мірскі замак. Мн., 1995; Nurt barokowy w twórczości J.S.Beckera architekta Sapiehów // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995; Mykolo Kado Ružanų periodo kuryba // Lietuvos daile europiniame kontekste. VDA. Vilnius, 1995; Архітэктар Я.М.Бернардоні — прадвеснік барока ў Беларусі // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн.,1998; Архітэктура Яна Самуэля Бэкера // Спадчына. 1998. № 3—4; Architektura Jana Samuela Beckera // Przegląd Wschodni. 2000. T. 6, z. 4(24); Architektura Białorusi w świetle mecenatu Radziwiłłów i Sapiehów // Там жа. 2001. Т. 7, z. 3(27); Мірскі замак. Мн., 2002 (2 выд. 2005).

**кальвінісцкія школы**, навучальныя ўстановы, якія ствараліся прыхільнікамі кальвінізму. У ВКЛ існавалі ў 16—19 ст. У 1570-х г.—пач. 17 ст. існавалі ў Вільні, Віцебску, Глыбокім, Заслаўі, Магілёве, Менску, Навагародку, Оршы, Свіслачы, Смаргоні, Шклове і інш. Мелі розны ўзровень: ад ніжэйшых (пачатковыя, 6 гадоў навучання) да 5-класных вучылішчаў (10 гадоў навучання), якія давалі адукацыю, дастатковую, каб паступіць ва універсітэт; лепшыя выхаванцы атрымлівалі стыпендыі ва ун-тах Англіі і Германіі. Асаблівая ўвага аддавалася рэлігійнаму навучанню і выхаванню, фізічнаму выхаванню; акрамя багаслоўя вывучаліся грэчаская, лацінская, бел., польская мовы, рыторыка, гісторыя, матэматыка, логіка і інш. У К.ш. выкарыстоўваліся элементы класна-ўрочнай сістэмы, гуманістычныя падыходы ў арганізацыі навучання, у навучэнцаў фарміравалася крытычнае мысленне. Пасля паражэння Рэфармацыі ў сярэдзіне 17 ст. колькасць пратэстанцкіх школ пачала скарачацца. У Беларусі найб. значнай была К.ш. ў Слуцку (гл. *Слуцкая гімназія*).

**кальвінскі збор**, абшчына і храм прыхільнікаў кальвінізму. У часы найб. пашырэння *Рэфармацыі* (2-я пал. 16 ст.) у ВКЛ было каля 200 будынкаў К.з. Першыя з іх — у Нясвіжы, Клецку, Берасці і Вільні — заснаваны М.*Радзівілам* Чорным. Паводле падлікаў польск. гісторыка Ю.Лукашэвіча, у сярэдзіне 17 ст. дзейнічала 140 збораў, у канцы 17 ст. — 48, у 1754 — 28. Большасць з іх былі драўляныя. Для мураваных характэрны адсутнасць алтарнай часткі, канцэнтрычнасць і сіметрычнасць. Яны мелі абарончыя прыстасаванні: тоўстыя муры, вежы з байніцамі, земляныя валы і равы. Захаваліся будынкі К.з. ў Жодзішках (1600, значна перабудаваны ў 19—20 ст.), Заслаўі (канец 16 ст.), Ізабеліне (канец 1770-х г.), Кейданах (17 ст.), Кельмах (17 ст), Кухцічах (2-я пал. 16 ст.), Смаргоні (1611) і інш. З'яўляюцца помнікамі архітэктуры. Тэрмін «збор» ужываецца і для абазначэння абшчыны кальвіністаў.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**«Калюмны»**, герб, адзін з дзяржаўных сімвалаў ВКЛ: у чырвоным полі 3 белыя слупы, злучаныя ўнізе. Паводле легенды, гэты герб прывёз з сабою з Рыма *Палемон*, ім карысталіся яго «нашчадкі» — літоўскі княжацкі род. «К.» сустракаюцца на манетах ВКЛ пасля 1386—1420. У *Грунвальдскай бітве 1410* з 40 харугваў ВКЛ 10 былі з вывай «К.» (паводле Я.Длугаша, такім знакам Вітаўт клеймаваў коней). Даследчыкі лічаць гэтыя харугвы надворнымі, якімі Вітаўт кіраваў як вял. князь. «К.» вельмі падобныя да знакаў Рурыкавічаў, т.зв. «трызубцаў», таму шэраг гісторыкаў выводзіць ад іх паходжанне «К.». Відаць, спачатку «К.» былі гербавым знакам Полацкага княства, якое ў 1386 перастала быць удзельным і ўвайшло непасрэдна ў ВКЛ. Герб зямлі з такім высокім статусам з'явіўся на манетах і выкарыстоўваўся поруч з «Пагоняй», якая ўвасабляла Літву, а «К.» — Русь. У гэтым значэнні «К.» перасталі выкарыстоўвацца са згасаннем дынастыі Ягайлавічаў. Вядома некалькі адзінкавых матэрыяльных помнікаў, дзе «К.» — шляхецкі герб.



Герб **«Калюмны»**.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**каляднае**, адзін з відаў натуральнай павіннасці ў 17—18 ст. Першапачаткова ўзнікла як святочнае паднашэнне феадалу, але паступова ператварылася ў пастаянную павіннасць. Штогод на Вялікдзень і Каляды прыгонныя сяляне павінны былі адносіць на панскі двор пэўную колькасць яек і курэй. Напр., у маёнтку Чэцверць Ашмянскага пав. сяляне ў 1778 давалі пану К., якое складалася з 10 яек і 1 курыцы з дыма.

**каляндар** (ад лац. calendarium пазыковая кніжка), сістэма злічэння вялікіх прамежкаў часу, заснаваная на перыядычнасці бачных нябесных цел. Найб. распаўсюджаны сонечны К., у аснову якога пакладзены сонечны (трапічны) год. У 46 да н.э. ў Рыме прынятыя юліянскі К. (даўжыня года 365,25 сутак у інтэрвале 4 гадоў), якім карысталіся ў краінах Еўропы да новага часу. З прыняццем хрысціянства ў многіх краінах рабіліся спробы суаднесці біблейскую храналогію з існуючымі каляндарнымі сістэмамі і вызначыць дакладную дату нараджэння Ісуса Хрыста. У 525 рымскі манах Дыянісій Малы выз-



Да арт. **Каляндар**. Ф.Скуміновіч (Тышкевіч). «Пасхальная эпістала». Гданьск. 1659. Тытульны ліст.

начыў, што Хрыстос нарадзіўся ў 753 ад заснавання Рыма, або ў 284 эры Дыяклетыяна. З цягам часу гэта сістэма летазлічэння («наша эра») зацвердзілася ў краінах Зах. і Цэнтр. Еўропы. У Візантыйскай імперыі распрацавана летазлічэнне «ад стварэння свету» (пачатак — 5508 да н.э.), год пачынаўся 1 вер. (т.зв. канстанцінопальская эра). З хрышчэннем Русі ў канцы 10 ст. ва ўсх. славян распаўсюдзіўся візантыйскі К., аднак за пачатак года браўся дзень 1 сакавіка. Розніца ў паўгода паміж стараж.-рус. і візантыйскім К. выклікала існаванне на Русі 2 асн. сістэм летазлічэння: сакавіцкай (рус. год адстае ад візантыйскага на паўгода) і ультрасакавіцкай (рус. год абганяе візантыйскі на паўгода). Вераснёўская сістэма (канстанцінопальская эра) спачатку на Русі ўжывалася мала. Зберагліся сляды знаёмства ўсх. славян з інш. сістэмамі летазлічэння: антыяхійскай эрай (пункт адліку — 1.9.5968 да н.э.), александрыйскай эрай (25.3.5493 да н.э.), балгарскай эрай (5504 да н.э.) і інш. Маскоўскі царк. сабор 1492 пастанавіў лічыць пачаткам года 1 верасня.

З пашырэннем каталіцтва ў ВКЛ з 13 ст. пачало распаўсюджвацца летазлічэнне ад «нараджэння Хрыста». Пачатак года пры гэтым адлічваўся з 1 студз. (відаць, такі адлік быў запазычаны са Свяшчэннай Рымскай імперыі; у розных краінах Зах. Еўропы існавалі і інш. сістэмы адліку). Летазлічэнне ад «нараджэння Хрыста» ўжывалася каталіцкай царквой і было прынята ў канцылярыі ВКЛ і канцылярыях мясц. устаноў. Разам з гэтым у дакументах канцылярыі ВКЛ да сярэдзіны 16 ст. пазначаліся індыкты (парадкавы нумар года ўнутры 15-гадовых цыклаў). З 16 ст. летазлічэнне ад «нараджэння Хрыста» пачало выкарыстоўвацца ў бел.-літ. летапісах, у кірылічных друкаваных выданнях (у т.л. ў Ф.Скарыны) і прыватных дакументах. На думку О.Галецкага, у канцылярыі вял. князя Свідрыгайлы на Валыні ў 1440—52 ужывалася своеасаблівая сістэма пазначэння гадоў: першыя дзве лічбы ставіліся паводле дыянісійскай эры, а 2 астатнія — паводле візантыйскай эры (такім чынам, розніца паміж пазначаным на дакуменце і рэальным годам складала 8—9 гадоў у бок павелічэння). Шырокае распаўсюджанне ў ВКЛ атрымала практычная храналогія з мэтай перакладу дат ад «стварэння свету» на даты ад «нараджэння Хрыста», для вызначэння дзён царк. свят, найперш Вялікадня. У сярэдзіне 16 ст. створаны энцыклапедычны зборнік (зберагаўся ў б-цы Жыровіцкага манастыра), дзе змешчаны два 3-таблічныя комплексы «вруцэлет», табліцы велікоднай поўні, для вызначэння дня тыдня кожнага месяца, індэкса дня тыдня велікоднай поўні і інш.

У 1582 рымскі папа Грыгорый XIII увёў новы, больш дакладны К. (грыгарыянскі). Даўжыня года ў ім складае 365, 2425 сутак. Пры гэтым дні 5—14.10.1582 былі выкінуты з К. Розніца паміж грыгарыянскім і юліянскім К. ў 16—17 ст. складала 10, у 18 ст. — 11, у 19 ст. — 12, у 20—21 ст. — 13 сутак. Грыгарыянскі К. быў адразу прыняты ў Рэчы Паспалітай. Аднак правасл. і пратэстанцкія цэрквы дзяржавы ўбачылі ў грыгарыянскім К. спробу падначаліць іх духоўнай уладзе рымскага папы і адмовіліся прымаць новаўвядзенне. Праваслаўныя абвясцілі, што прымуць новы К. толькі з дазволу канстанцінопальскага патрыярха. Патрыярх Іерамія II 20.3.1583 забараніў змену К.

У 1582 лютэранскі магістрат Рыгі адхіліў увядзенне грыгарыянскага К. ў горадзе. У 1584 кароль Стафан Баторый паўтарыў загад увесці новы К. пад



Да арт. **Каляндар**. «Ключ на пасахлію». Рым. 1596. Тытульны ліст.

пагрозай вял. штрафу. Магістрат саступіў, але апазіцыя палічыла гэта за парушэнне свабоды веравызнання, якое было гарантавана дагаворам аб падпарадкаванні польскаму каралю. Калі на Каляды 1584 рыжскія езуіты пачалі набажэнства паводле новага К., іх касцёл, як і дамы некаторых членаў магістрата, быў разгромлены натоўпам. 23.1.1585 заключана пагадненне паміж магістратам і бюргерскай апазіцыяй, паводле якога ўжыванне новага К. было забаронена ў Рызе. Аднак Стафан Баторый адмяніў пагадненне, а ўлада магістрата была адноўлена.

Значны канфлікт адбыўся ў Львове. У 1583 львоўскі бурмістр атрымаў загад Стафана Баторыя ўвесці ў горадзе новы К. Былі апячатаны цэрквы, што выклікала масавыя пратэсты праваслаўных. Пры пасрэдніцтве канцлера ВКЛ А.Валовіча, ваявод кіеўскага К.Астрожскага і белзскага С.Жалкеўскага, кашталяна менскага Я.Глябовіча паміж львоўскім каталіцкім архібіскуам Дз.Сулікоўскім і львоўскім правасл. епіскапам Гедэонам Балабанам 15.2.1585 заключана мірнае пагадненне. Стафан Баторый гарантаваў праваслаўным Рэчы Паспалітай свабодна ўжываць стары К. прывілеямі ад 21.1. 1584, 18.5.1585 і 8.9.1586 (праваслаўным Вільні).

З сярэдзіны 1580-х г. пачалася літаратурная палеміка адносна К. паміж

праваслаўнымі і каталікамі, якая цягнулася да 1650-х г. Памфлет «Каляндар рымскі новы» змясціў Г.Д.Сматрыцкі ў сваім творы «Ключ царства нябеснага» (Львоў, 1587). Яго падтрымаў В.Суражскі ў «Кніжыцы» (Астрог, 1588) і «Псалтыры» (Астрог, 1598), С.Зізаній у творы «Казанне святога Кірылы» (Вільня, 1596), М.Бранеўскі (Хрыстафор Філалет) у «Апокрысісе» (Вільня, 1597). У 17 ст. пераважалі кнігі каталіцкіх аўтараў супраць ужывання старога К. У абарону новага К. выступілі Ф.Скуміновіч (Тышкевіч), езуіты М.Сміглецкі, В.Расцішэўскі, С.Градзіцкі і інш. Рэктар Кіеўскай брацкай школы Касіян Саковіч, калі прыняў унію, выступіў за прыняцце новага К. ў кнізе «Стары каляндар» (Вільня, 1640; 2-е выданне выйшла пад назвай «Акуляры старому календару», Кракаў, 1644). Аналагічныя погляды выказаў уніят І.Дубовіч у кн. «Каляндар сапраўдны веры Хрыстовай» (Вільня, 1644).

Каляндарнае пытанне было закранута і пры падрыхтоўцы уніі паміж правасл. і каталіцкай цэрквамі Рэчы Паспалітай. Ініцыятары уніі епіскапы Іпацій Пацей і Кірыла Цярлецкі выражалі згоду на прыняцце грыгарыянскага К. У час іх візіту ў Рым там у 1596 выдадзена па-беларуску кірылічная пасхалія паводле новага К. на 1409—3004. Аднак царк. унія была заключана на ўмовах захавання старой абраднасці правасл. царквы, у т.л. выкарыстання юліянскага К. У 1598 на з'ездзе ў Луцку многія правасл. князі і шляхта падпісалі акт аб прыняцці уніі і новага К.; аналагічны акт у 1603 прыняты ў Валынскім ваяв. За пераход на грыгарыянскі К. выступалі і некат. уніяцкія духоўныя асобы, аднак афіцыйна уніяцкая царква Рэчы Паспалітай захавала стары К.

Прыняцце новага К. пры адначасовым захаванні старога праваслаўнымі, а пасля уніятамі, выклікала шматлікія «каляндарныя» канфлікты. Каталіцкія духоўныя асобы часта скардзіліся ўладам, што праваслаўныя і уніяты працуюць у каталіцкія святы (напр., у Полацку ў 1599). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай юліянскі К. быў зноў уведзены ў свецкае жыццё ў Беларусі і Літве ў 1800.

*Літ.*: Головацкий Я. Попытки и старания Римской курии ввести Григорианский календарь у славян православных и униатов // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1877. № 9; Сумцов Н.Ф. Исторический очерк попыток католиков ввести в Южную и Западную Россию Григорианский календарь // Киевская старина. Киев, 1888. Кн. 5; Chronologia polska. Warszawa, 1957; Krajcar J. The paschalia printed at Rome in 1596 // Oxford Slavonic Papers. New Series. 1970. Vol. 3; Голенченко Г.Я. «Календарь» Франциска Скорины // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976; Романова А.А. Древнерусские календарно-хронологические источники XV—XVII вв. СПб., 2002; Kalendarze. Lublin, 2003.

*Валерый Пазднякоў.*

**Калянкоўскі** (Kolankowski) Людвік (21.6.1882, г. Надворная, цяпер у Івана-Франкоўскай вобл., Украіна—19.3.1956), польскі гісторык і палітычны дзеяч. Чл. Польскай АН (1947), д-р габілітаваны (1913), праф. звычайны (1929). Скончыў Львоўскі ун-т (1906). У 1906—15 супрацоўнік Ягелонскай б-кі ў Кракаве. У 1913—18 і 1924—29 выкладаў у Кракаўскім ун-це. У 1918—24 у Міністэрстве замежных спраў, кіраўнік Усх. аддзела, дырэктар Літ.-бел. дэпартамента. У 1919 генеральны камісар Усх. Зямель, упаўнаважаны па справах арганізацыі ун-та ў Вільні. З 1929 дырэктар Б-кі Ардынацыі Замойскіх у Варшаве, адначасова да 1936 выкладаў у Віленскім, у 1936—39 — у Львоўскім ун-це. У 1938—39 сенатар, кіраўнік Лагера нац. аб'яднання ў паўд.-ўсх. ваяводствах. Старшыня Польскага гіст. таварыства (1937—47). У гады 2-й сусв. вайны жыў у Варшаве, выратаваў ад знішчэння шмат культ. каштоўнасцей. У 1945—46 выкладаў у Лодзінскім, з 1945 — таксама ў Тарунскім ун-це (адзін з яго арганізатараў, у 1946—48 рэктар, у 1949—55 дырэктар б-кі). Даследаваў гісторыю Польшчы і ВКЛ эпохі Ягелонаў у шырокім кантэксце палітычнай гісторыі Усх. Еўропы, асаблівую ўвагу звяртаў на гісторыю Крымскага ханства.

*Тв.*: Zygmunt August wielki książę Litwy do roku 1548. Lwów, 1913; Dzieje chanatu krymskiego Girejów w XV i XVI wieku. Lwów, 1917; «Pomiara włoczna» // Ateneum Wileńskie. 1927. R.4, z. 13; Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. 1377—1499. Warszawa, 1930; Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. Lwów, 1936 (3 wyd. Olsztyn, 1991).

*Літ.*: Ludwik Kolankowski, 1882—1982: Materiały sesji w stulecie urodzin. Toruń, 1983 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**Камайскі касцёл.** Пабудаваны ў 1603—06 у мяст. Камаі Ашмянскага пав. (цяпер Пастаўскі р-н). Засн. Янам Рудамінам-Дусяцкім. Акт фундацыі (1606) падпісаны і Янам Хаецкім, дата пабудовы (1603) названа ў інвентары 18 ст. У стылявой трактоўцы касцёла спалучаны формы абарончага дойлідства, архітэктуры готыкі і рэнесансу. Спачатку меў падоўжна-восевую кампазіцыю, быў 3-нефавы, 4-слупавы, перакрываўся крыжовымі і зорчатымі скляпеннямі (зберагліся ў апсідзе). У 1643 пры касцёле П. і М. Рудаміны заснавалі шпіталь. У сярэдзіне 17 ст. пасля пажару скляпенні абваліліся, слупы разабраны, асн. памяшканне перакрыта драўляным люстраным скляпеннем. Пасля адбудовы храм у 1673 асвячоны



**Камайскі касцёл**.



віленскім біскупам-суфраганам М.Слуцкім. У 1778 на сродкі Войнаў і Козелаў прыбудавана вял. прамавугольная ў плане капліца з крыптай, перакрытай цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Цяпер касцёл — мураваны 2-вежавы амаль квадратны ў плане храм з вял. паўцыркульнай алтарнай апсідай, сакрыстыяй і хорамі над бабінцам. Дахі над асн. аб'ёмам і капліцай 2-схільныя, над апсідай — конусападобны. Сцены (таўшчыня 2 м) прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі, паглыбленымі ў нішах. Партал увахода са спічастым завяршэннем. Гал. фасад асн. аб'ёму завершаны трохвугольным шчытом, раскрапаваны ў верхняй частцы 4 плоскімі арачнымі нішамі з байніцамі, фланкіраваны 2 магутнымі цыліндрычнымі вежамі (вышыня 16, дыяметр 6 м) з байніцамі. Паўн. сцяна праёмаў не мае. Сцены дэкарыраваны тонкімі карнізамі, фасады капліцы — пілястрамі. У інтэр'еры асн. зала і капліца злучаны мураванымі лесвіцамі, размешчанымі паміж пілонаў. Апсіда адкрываецца ў асн. памяшканне арачным праёмам. Усе скляпенні касцёла аздоблены размалёўкай у тэхніцы грызайль. У інтэр'еры арган канца 18 ст., 4 разныя драўляныя алтары. Аснову цэнтральнага 2-яруснага алтара 2-й пал. 18 ст. складаюць 4 калоны карынфскага ордэра, паміж імі ў нішах — даўляныя паліхромныя скульптуры апосталаў Пятра і Паўла. У цэнтры — алтарны абраз Маці Божай з дзіцем (17 ст., паводле інвентароў 18 ст., лічыўся цудатворным) у сярэбранай чаканнай аправе. Крапаваны карніз з разарваным франтонам аддзяляе 2-і ярус алтара, утвораны 2 калонамі, што абрамляюць абраз у 8-граннай разной пазалочанай раме. Алтар завершаны гарэльефнай кампазіцыяй з выявай Саваофа ў воблаках. Ордэрныя элементы алтара размаляваны пад ружовы мармур.

***Уладзімір Чантурыя.***

**Камар** Андрэй (?—пасля 1788), грамадскі дзеяч. З шляхецкага роду герба «Радван» Пінскага павета. З 1772 стараста шаламецкі (в. Шаломкі ў Оўруцкім пав.), з 1778 ротмістр пінскі. Пакінуў апісанне падарожжа водным шляхам «Надзейная рэляцыя пра Каралеўскі канал, выкапаны ад ракі Мухавец, які ўпадае ў Буг і Віслу, і ад ракі Піны, якая цячэ ў Прыпяць і Днепр» («Relacja niezawodna o kanale JKM ci od rzeki Muchawca do Bugu i Wisły wpadającej, a od rzeki Piny do Prypeci i Dniepru płynącej wykopanym», 1788). Адзначыў гасп. значэнне *Каралеўскага канала*, прапанаваў зрабіць сплаўнымі інш. рэкі. Апісанне К. выдаў у 1791 Е.Язерскі.

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz Polski. Warszawa, 1907. T. 10. S. 357—362.

***Валерый Пазднякоў.***

**Камары**, Комары, шляхецкі род уласнага герба «Камар». Адна з галін роду карысталася ў ВКЛ прозвішчам Камары-Забажынскія. Род вядомы з канца 15 ст., калі яго родапачынальнік Камар у 1481 узяў у трыманне Рэчыцкае староства. У 16—17 ст. валодалі маёнткам Жодзішкі Ашмянскага пав., у 17 ст. — маёнткам Нішча Браслаўскага павета. Найб. вядомыя:

Крыштоф (?—?), сын Яраша. Каралеўскі ротмістр. Быў на баку Жыгімонта III у час *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09*. Фундаваў у Жодзішках касцёл.

Геранім (?—пасля 1678), сын Крыштофа. Падстолі (1648), падсудак, суддзя земскі аршанскі (1667). У 1665 разам з іншай шляхтай падпісаў хадайніцтва пра кананізацыю архіепіскапа І.*Кунцэвіча*. Удзельнічаў у абранні каралёў Яна II Казіміра ў 1648, Міхала Вішнявецкага ў 1669 і Яна III Сабескага ў 1674. У час бескаралеўя 1673—74 маршалак каптуровага суда Аршанскага пав. Дыпламатычную кар'еру пачаў як кур'ер і перакладчык у час перагавораў у 1644 дэлегацый Рэчы Паспалітай і Расіі ў Дубровічах. У 1665 узначальваў пасольства ў Маскву. Удзельнічаў у перагаворах па заключэнні *Андросаўскага перамір'я 1667* і ў вял. пасольстве ў Маскву. У 1669—70 удзельнічаў у новых перагаворах у Андросаве, наведаў Маскву ў складзе пасольстваў у 1670, 1671, 1673 і 1678. Валодаў маёнткамі ў Ашмянскім пав. Меў сыноў Крыштофа (суддзя гродскі ашмянскі ў 1683, падстолі браслаўскі), Казіміра (суддзя земскі аршанскі) і дачку Ганну.

Ежы (?—?), староста буцянскі, войскі вендэнскі, ротмістр каралеўскі. У 1648 удзельнічаў у абранні каралём Яна II Казіміра. У час вайны з Расіяй 1654—67 сваім коштам выставіў казацкую харугву, за што на сойме 1662 атрымаў маёнткі Дабейкі (Буцяны), Вайтуны, Жыбуртаны і Колчмы-Вайскінікі.

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz Polski. Warszawa, 1907. T. 10. S. 357—362.

***Валерый Пазднякоў.***

**камедулы**, манахі каталіцкага манаскага ордэна пустэльнікаў. Вылучыліся з *бенедыкцінцаў* дзякуючы рэформам Рамуальда з Камальдолі (лац. Campus Malduli, каля Арэца ў Італіі,



Да арт. **Камедулы**. Кляштар у Віграх.

1012 або 1023; адсюль назва). У 1072 папа Аляксандр II вызваліў К. з-пад юрысдыкцыі біскупаў. Статут К. заснаўваўся на бенедыкцінскім, быў больш жорсткі і патрабаваў ад манахаў строгага пустэльнага жыцця, маўчання, шчырага посту, фізічнай працы, агульнай малітвы. Насілі габіты з белай воўны. Трымалі шматлікія шпіталі і аптэкі. З цягам часу падзяліліся на асобныя кангрэгацыі, у т.л. з цэнтрамі ў Монтэ-Кароне ў Перуджы (Кангрэгацыя камедульскіх пустэльнікаў Монтэ-Кароны, лац. Congregatio Eremitarum Camaldulensium Montis Coronae, ECMC, ErCam) і ў Камальдолі (Камедульская кангрэгацыя ордэна св. Бенядзікта, лац. Congregatio Camaldulensis Ordinis Sancti Benedicti, OSBCam). У Польшчы К. з'явіліся ў пач. 11 ст., стала аселі ў пач. 17 ст. У ВКЛ у 1662 кляштар К. заклаў К.З.Пац у Пажаях каля Коўна (гл. *Пажайскі кляштар камедулаў*), у 1667 — кароль Ян II Казімір на паўвостраве воз. Вігры ў Гарадзенскім павеце. У 1685 гэты кляштар атрымаў статут прыярата, да 1699 закладзены мураваны касцёл паводле праекта, відаць, П.Пуціні, у 1800 скасаваны прускімі ўладамі. Кляштары (пустэльні) К. Рэчы Паспалітай падпарадкоўваліся ўладзе кляштара ў Монтэ-Кароне ў Італіі.

*Літ.*: Zarewicz L. Zakon kamedulow, jego fundacje i dziejowe wspomnienia w Polsce i Litwie. Kraków, 1871; Kłapkowski W. Duszpasterstwo i oświata w

dobrach klasztoru kamedulów wigierskich. Sejny, 1933.

**Каменскі-Длужык** Адам (?—пасля 1672), пісьменнік-мемуарыст. Паходзіў, магчыма, з аршанскай шляхты. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* апынуўся на захопленай тэрыторыі і прысягнуў цару. Пасля далучыўся да войска Рэчы Паспалітай, у *бітве на Басі 1660* трапіў у палон. Праз Магілёў быў перавезены ў Маскву. У Расіі вядомы пад імем Грышка. У 1661 разам з інш. «людзьмі літоўскімі, здраднікамі» накіраваны на прымусовую службу ў Сібір. Спачатку служыў «казаком» у Табольску, з 1662 у Якуцку, тут у 1664—68 наглядчык у вязніцы. Пасля заключэння Андросаўскага перамір'я 1667 выехаў у Маскву, куды прыбыў у 1669, і ў 1772 разам з пасольствам Рэчы Паспалітай выехаў на радзіму. К.-Д. пакінуў кароткі дыярыуш свайго побыту ў Расіі, дзе прыведзены звесткі аб прыродзе і эканоміцы Сібіры, яе народах (комі-зыранах, мансі, хантах, якутах, чукчах, тунгусах, эвенках), іх побыце і вераваннях. Удзел К.-Д. ў экспедыцыі, што быццам выйшла на суднах з Лены, абагнула мыс Дзяжнёва і дасягнула Амура, непраўдападобныя. Відаць, шмат якія звесткі К.-Д. узяў з расказаў мясц. жыхароў. Напісаны па-польску з шматлікімі беларусізмамі дыярыуш К.-Д. стаў першай наратыўнай крыніцай, прысвечанай апісанню Сібіры. Захаваўся ў копіі 18 ст.

*Тв.*: Dyaryusz więzienia moskiewskiego, miast i miejsc opisany // Warta. Poznań, 1874; Diariusz więzienia moskiewskiego, miast i miejsc // Dwa polskie pamiętniki z Syberii XVII i XVIII wieku. Wrocław, 1996; Бел. пер. — Дыярыуш маскоўскага палону з апісаннем гарадоў і мясцовасцей // Бел. літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1974. Вып. 2.

*Літ.*: Коршунаў А.Ф. Нататкі з падарожжа па Сібіры ў XVII ст.: («Дыярыуш» Адама Каменскага) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 1; Грицкевич В.П. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986. С. 47—52; Polewoj B.P. W poszukiwaniu nowych danych o *Diariusz* Adama Kamieńskiego-Dłużyka // Lud. 1994. T. 77.

***Валерый Пазднякоў.***

**камень,** адзінка масы сыпкіх рэчываў і штучных тавараў у рознічным гандлі ВКЛ і Рэчы Паспалітай. З 14 ст. найб. ужываліся аўстрыйскі (11,203 кг) і прускі (для лёгкіх рэчываў 5,145 кг, для цяжкіх 10,290 кг) К. Пры уніфікацыі мер і вагаў соймам 1764 для ВКЛ прыняты кракаўскі, або каронны, К. (32 варшаўскія фунты, каля 13,967 кг). Канстытуцыя ВКЛ 1766 прыраўняла літ. К. да 40 літ. фунтаў, або 14,993 кг у вагавай сістэме 19 ст. Літ. К. кляйміўся скарбовым гербам, рабіўся, але не стаў агульнаабавязковай мерай. Тагачасны цэнтнер змяшчаў 5 К. У канцы 19 ст. літ. К. складаў 36 рус. фунтаў і 17,5 лота (14,966 кг). Як мера ўзважвання штучных цяжкіх тавараў К. суіснаваў побач з мерамі сыпкіх рэчываў да канца 19—пач. 20 ст.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 7. 2 wyd. Petersbug, 1860; Горбачевский Н.И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства польского. Вильна, 1874; Baraniecki M.A. O miarach prawnych i zwyczajowych w Polsce // Wszechświat. 1883. № 44, 45; Скурат К.У. Даўнія беларускія меры: (лексічны аналіз). Мн., 1974.

***Яўген Анішчанка.***

**камісар** (ад сярэднелац. commissarius упаўнаважаны), член камісіі, прызначанай вял. князем, радай або соймам для разгляду якога-небудзь пытання, судовай справы або для выканання пэўнага даручэння.

**камісарскі суд,** часовы суд у ВКЛ для разгляду гал. чынам зямельных прэтэнзій прыватных землеўласнікаў, манастыроў, гарадоў да трымальнікаў каралеўскіх маёнткаў. Суддзямі выступалі камісары, якіх прызначаў вял. князь (кароль), у 18 ст. — *задворны асэсарскі суд*. Судовая справа разглядалася на месцы з выклікам бакоў і сведкаў, аглядам межаў маёнтка. К.с. вызначаў межы зямельных уладанняў і пазначаў іх на мясцовасці капцамі, пра што складаўся акт. Апеляцыі на выракі К.с. падаваліся ў звычайным парадку, з 1774 — у задворны асэсарскі суд.

**камісіі абодвух народаў**, цэнтральныя калегіяльныя органы дзярж. улады Рэчы Паспалітай, агульныя для Кароны Польскай і ВКЛ: *Вайсковая камісія абодвух народаў, Камісія паліцыі абодвух народаў, Скарбовая камісія абодвух народаў*. Створаны *Чатырохгадовым соймам 1788—92*. Скасаваны ў 1792 *Таргавіцкай канфедэрацыяй*. *Гарадзенскі сойм 1793* аднавіў асобныя камісіі для Кароны і ВКЛ.

**камісіі вялікія**, цэнтральныя калегіяльныя органы дзярж. улады Рэчы Паспалітай. У 1764 створаны асобныя для Кароны Польскай і ВКЛ скарбовыя і вайсковыя камісіі (гл. *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага, Вайсковая камісія Вялікага княства Літоўскага*), а ў 1773 *Адукацыйная камісія*.

**камісіі добрага парадку**, органы мясцовай адміністрацыі ў гарадах з каралеўскай юрысдыкцыяй Рэчы Паспалітай. Першая камісія створана ў 1765 для размеркавання даходаў Варшавы. Сойм 1768 стварыў падобныя камісіі для ўладкавання фінансаў і гаспадаркі буйных гарадоў і мястэчак. З 1777 юрыд. статус камісій афармляўся каралеўскімі прывілеямі, членаў камісій прызначаў кароль. У ВКЛ дзейнічалі ў гарадах «сталічнага значэння»: Магілёве, Полацку, Віцебску (ва ўсіх — да 1772), Берасці, Вільні, Гародні, Менску, Навагародку, Пінску. Вызначалі гар. даходы, клапаціліся пра стан гар. гаспадаркі, догляд убогіх і хворых за кошт царк. ахвяраванняў. *Чатырохгадовы сойм 1788—92* замяніў К.д.п. *камісіямі парадкавымі цывільна-войсковымі* і *Камісіяй паліцыі абодвух народаў*.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 7—8. 2 wyd. Petersburg, 1860; T. 10. Poznań, 1952; Gordziejew J. Próby reform miejskich w Grodnie w okresie Oświecenia // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. Kraków, 2001. R. 46.

***Яўген Анішчанка.***

**камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя**, органы мясцовай адміністрацыі ў Рэчы Паспалітай. Створаны 6.11.1789 *Чатырохгадовым соймам 1788—92* па ініцыятыве паслоў браслаўскага Т.*Ваўжэцкага* і навагародскага М.Бярновіча. З лют. 1790 пастаяннадзейныя органы выканаўчай улады. У 1791 падпарадкаваны *Камісіі паліцыі абодвух народаў*. У камісіі выбіраліся 15 камісараў з неасуджанай і аселай шляхты ў ваяводствах і паветах на сойміках на 2 гады. Без выбрання за грамадскія заслугі ў камісіі ўваходзілі сенатары, цівуны, павятовыя маршалкі, гродавыя старасты, харужыя. Кожная камісія мела канцылярыю з возным і адвакатам. Сесіі адбываліся штодня акрамя святаў. Камісары выконвалі функцыі бясплатна, але на работу канцылярыі збіралася па шэлегу з кожнага злотага падаткаў. У ВКЛ існавалі 23 камісіі ў адпаведных адм. цэнтрах, у т.л. ва Ушачах для Полацкага ваяв., Чарэі



для Віцебскага ваяв., Халопенічах для Аршанскага пав., Берасці для Берасцейскага ваяв. і Кобрынскага пав., Бабруйску для Рэчыцкага пав. Камісіі наглядалі за мерамі і вагамі, цэнамі, мануфактурамі, корчмамі, гарадамі, шляхамі зносін, рачнымі перавозкамі. Абавязаны былі клапаціцца аб росце земляробства, рамёстваў, гандлю. Вялі ўлік насельніцтва, збіралі падымны падатак. Кіравалі ўтварэннем парафіяльных школ пры плябаніях, раскватараваннем і забеспячэннем войск рэкрутамі і харчам. У якасці суда 1-й інстанцы разглядалі маёмасныя справы і справы па адм. правапарушэннях, канчаткова і безапеляцыйна, калі іск не перавышаў 300 злотых, а кара — 50 злотых і 3 дзён турмы. Астатнія справы па прадстаўленні павятовых дазорцаў адсылаліся па апеляцыі на канчатковы прысуд Камісіі паліцыі абодвух народаў. Разбіралі спрэчкі паміж ваеннымі і цывільным насельніцтвам, каралі за непаслушэнства публічнай уладзе і землеўладальнікам, але не мелі права судзіць па крымінальных справах. Скасаваны 22.9.1792 *Таргавіцкай канфедэрацыяй*. Аднолены *Гарадзенскім соймам 1793*, але фактычна не дзейнічалі. У час *паўстання 1794* створаны новыя камісіі, звычайна з 21 чал., якія размяркоўваліся паміж 6 аддзеламі (парадку, бяспекі, скарбу, войска, спраў, жыўнасці). Падуладная камісіі тэрыторыя падзялялася па парафіях або дазорах (да 1200 двароў) для арганізацыі паспалітага рушэння і рэгулявання адносін сялян з панамі. Праіснавалі да 1795.

*Літ.*: Gordziejew J. Z dziejów Komisji Porządkowych Cywilno-Wojskowych w Wielkim Księstwie Litewskim // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. Kraków, 2002. R. 47.

***Яўген Анішчанка.***

**Камісія паліцыі абодвух народаў**, цэнтральны калегіяльны орган улады Рэчы Паспалітай па падтрымцы грамадскай бяспекі і выкананні рашэнняў судовай улады. Створана 28.6.1791 *Чатырохгадовым соймам 1788—92*. Падпарадкоўвалася *Стражы Правоў*. Кіравалася надворнымі маршалкамі праз канцылярыю (6 чал.) Складалася з 15 камісараў: 3 сенатараў, 6 паслоў (па 2 ад Вялікапольскай, Малапольскай і Літоўскай правінцый) і 6 адвакатаў ад гарадоў, выбраных ад землеўласнікаў. Камісары выбіраліся соймамі на 2 гады. Камісія засядала штодня, акрамя свят. Ад ВКЛ у камісію ўваходзілі берасцейскі кашталян Ю.Шчыт, Ю.Швайкоўскі і С.Прашынскі. Камісія выконвала функцыі скасаваных *камісій добрага парадку*, а таксама вял. і надворнага маршалкаў. Займалася ўпарадкаваннем гарадоў, рэвізавала гар. даходы, фундушы, давала дазвол на працу паза рамеснымі цэхамі, сачыла за неадчужальнасцю гарадскіх зямель і іх арэндай праз аўкцыёны. Ажыццяўляла агульнаграмадзянскую паліцэйскую ўладу, аказвала дапамогу калекам і хворым, змагалася са злачыннасцю, загадвала месцамі зняволення, папраўчымі дамамі, мелася прадухіляць парушэнні вольнасці друку. Уласныя распараджэнні ажыццяўляла праз ваяводскія і павятовыя *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя*. Як судовая ўстанова разглядала справы, накіраваныя ёй па апеляцыі парадкавымі камісіямі. Для выканання сваіх пастаноў трымала 2 харугвы і магла карыстацца армейскай дапамогай. Скасавана *Таргавіцкай канфедэрацыяй*. На *Гарадзенскім сойме 1793* створаны асобныя *Камісія паліцыі Вялікага княства Літоўскага* і Каронная камісія паліцыі.

*Літ.*: Zahorski A. Centralne instytucje policyjne w Polsce w dobie rozbiorów. Warszawa, 1959.

***Яўген Анішчанка.***

**Камісія паліцыі Вялікага княства Літоўскага**, цэнтральны калегіяльны орган улады ВКЛ па падтрымцы грамадскай бяспекі і парадку. Створаны *Гарадзенскім соймам 1793* адначасова з Кароннай камісіяй паліцыі замест *Камісіі паліцыі абодвух народаў*. У склад камісіі павінен быў уваходзіць 1 сенатар і 5 прадстаўнікоў ад шляхты, выбраных на сойме; яе пасяджэнні мусілі адбывацца пад старшынствам вял. або надворнага маршалка ВКЛ. У камісію былі выбраны М.Радзівіл (кашталян віленскі), В.Гарэцкі (войскі віленскі), С.Валовіч (падкаморы рэчыцкі), С.Корсак, М.Мараўскі, А.Казакоўскі. Вял. маршалак ВКЛ Л.Тышкевіч мала ўдзельнічаў у працы камісіі, на яе пасяджэннях звычайна старшынстваваў Валовіч. Была падсправаздачная сойму, падначалена Дэпартаменту паліцыі *Пастаяннай Рады*. Камісіі падпарадкоўваліся мясц. *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя*. У задачы камісіі ўваходзіў нагляд над дзейнасцю мясц. адміністрацыі (было фактычна скасавана самакіраванне гарадоў), справы «бяспекі, спакою і публічнай выгоды», цэнзура, нагляд над шпіталямі, барацьба з бадзяжніцтвам. У апарат камісіі ўваходзілі пісар, судовы і эканамічны рэгенты, генеральны сакратар, пленіпатэнт, архівіст, касір, геаметр. Камісія пачала працу ў Гародні 28.12.1793. Займалася арганізацыяй новых гар. магістратаў, упарадкаваннем асвятлення і гандлю ў Вільні, рэгуляваннем цэн, шпітальнай справай і інш. Дзейнічала да пачатку *паўстання 1794*, да якога далучыліся амаль усе яе члены.

*Літ.*: Zahorski A. Centralne instytucje policyjne w Polsce w dobie rozbiorów. Warszawa, 1959.

***Валерый Пазднякоў.***

**камора**, мытня, спецыяльны дзяржаўны дом у ВКЛ і Рэчы Паспалітай у канцы 15—18 ст., у якім агледжваўся, ацэньваўся тавар, што правозіўся купцамі, інш. гандлярамі і спаганялася *мыта*. К. ставілі на ўсіх гал. гандлёвых шляхах, а іх аддзяленні (прыкаморкі) — на другарадных дарогах, па якіх таксама маглі праязджаць купцы і інш. гандлёвыя людзі з таварамі. На тэр. Беларусі К. былі ў Полацку, Віцебску, Оршы, Магілёве, Менску, Гародні, Берасці, Навагародку, Лоеве, Дуброўне, Талачыне, Бешанковічах і інш., а прыкаморкі — у Бабруйску, Беразіне, Прапойску, Мазыры, Ашмянах, Радашковічах, Барысаве і інш. Купец ці інш. гандляр, які прыехаў да першай К. ці прыкаморка, быў абавязаны паказаць службовым асобам К. (кіраўніку — «спраўцы», рэвізору, пісару, варце) увесь тавар, азначыць яго колькасць, якасць, кошт, каму належыць, адкуль прывезены і куды дастаўляецца. Гэтыя звесткі правяраліся і заносіліся ў *мытныя кнігі*. Заплаціўшы мыта, уладальнік тавару атрымліваў квіток і ехаў да названага ім месца прызначэння. У наступнай К. ці прыкаморку, якія траплялiся на шляху, зноў праводзіўся кантроль тавару. Яго колькасць павінна была адпавядаць запісу ў квітку. За лішнюю колькасць тавару, які купец мог набыць па дарозе, збіралася дадатковае мыта. Купцоў, якія наўмысна пазбягалі К. і прыкаморкаў, каралі прамытам, г.зн. канфіскацыяй тавару. Адна яго палова ішла на ка-

рысць караля, другая — мытніку (арандатару). У ВКЛ К. звычайна на 1—3 гады здавалі ў арэнду буйным феадалам, багатым купцам, ліхвярам. Арандатар мог браць на водкуп усе ці толькі частку К. і прыкаморкаў. Напр., у 1578 менскі ваявода М.Сапега арандаваў усе К. і прыкаморкі ВКЛ. У 1579 магілёўскую К. з яе прыкаморкамі ўзяў у арэнду берасцейскі ліхвяр Айзік Якубовіч. У 1745 усе К. і прыкаморкі на 3 гады здадзены ў арэнду генералу артылерыі Я.Е.Д.Флемінгу. Адкупшчыкам кароль выдаваў ліст на права арэнды. К. і прыкаморкі прыносілі дзярж. скарбу вял. прыбытак.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Rybarski R. Handel i polityka handlowa Polski w XVI stuleciu. T. 1. Poznań, 1928; Мелешко В.И. Новые белорусские таможенные книги первой половины XVII в. // Ист. архив. 1960. № 4; Его ж. Торговые связи Могилева с городами Польши и Прибалтики во второй половине XVI—первой половине XVII в. //Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1965. T. 2; Яго ж. Handel i stosuki handlowe Białorusi Wschodniej z miastami nadbałtyckimi w końcu XVII i w XVIII w. // Zapiski historyczne. 1968. Z. 4.

***Васіль Мялешка.***

**каморнік**, 1) у ВКЛ 16—18 ст. геадэзіст-землеўпарадчык, член *падкаморскага суда*. Прызначаўся і замяшчаў *падкаморага* пры вырашэнні спрэчак на месцы. Займаўся вымярэннем і здымкай мясцовасці (межаў, маёнткаў і г.д.) у якасці судовага выканаўцы, а таксама асабіста за кошт зацікаўленага боку. Пасля далучэння зямель Беларусі да Рас. імперыі заменены інстытутам землямераў, канчаткова знік у 1840 пасля ліквідацыі межавых судоў і спынення дзейнасці Статута ВКЛ 1588. 2) Катэгорыя вольных і прыгонных людзей у 16—19 ст. без уласнага двара і зямлі. Існавалі за кошт найму жылля (адсюль *падсуседзі, кутнікі, сябры, бабылі*), нярэдка кавалка зямлі *(агароднікі)* за грошы, натуральнае ўтрыманне і паднявольную працу ў якасці парабкаў. Займаліся таксама дробным гандлем і рамяством. Зліліся з асн. масай прыгонных па меры ўкаранення падушных рэвізій, забароны вольных пераходаў, надзялення зямлёй у час абавязковай інвентарызацыі маёнткаў царскім урадам (1840—50-я г.).

*Літ.*: Лаппо И. Подкоморский суд в Великом княжестве Литовском в конце XVI и начале XVII в. // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1899. № 8; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVII вв. Львов, 1957.

***Яўген Анішчанка.***

**кампрамісарскі суд**, пашыраная ў ВКЛ у 17—18 ст. назва *палюбоўнага суда*.

**камуністы**, ксяндзы агульнага жыцця, супольнасць свецкіх ксяндзоў (Інстытут свецкіх ксяндзоў у агульным жыхарстве, лац. Institutum Sacerdotum Saecularium in Communi Viventium). Засн. у 1640 нямецкі ксёндз Б.Гольцгаўзер. Статут К. зацверджаны папам Інакенціем XI у 1684. Жылі невял. абшчынамі (лац. vita communis агульнае жыццё, адсюль і назва) з агульнай маёмасцю, без жаночай прыслугі. Давалі зарок на пажыццёвае знаходжанне ў суполцы, паслушэнства свайму старшаму, але не былі манахамі. Мэтай руху К. абвяшчалася годнае жыццё і душпастарская дзейнасць, а шляхам яе рэалізацыі — утрыманне дыяцэзіяльных і ўласных духоўных семінарый. Адчынялі таксама пачатковыя і сярэднія школы, дамы ксяндзоў-пустэльнікаў (тых, хто прымаў манаскія зарокі). Падлягалі ўладзе мясц. біскупаў. У Польшчы К. з'явіліся ў 1683. З 1684 кіравалі семінарыяй у Янаве на Падляшшы. У 1695 ім перададзены касцёл св. Карла Барамея ў Караліне каля Пінска, дзе адчынілі ўласную семінарыю. У 1704 луцка-берасцейскі біскуп А.Выгоўскі перадаў К. калегіум вікарыяў пры кафедральным касцёле ў Луцку і калегіум у Алыцы, а ў 1711 — прэпазітуру ў Венграве. У 1726 К. адчынілі ўласную семінарыю ў Берасці (паводле некат. даных, пачала дзейнічаць пасля новай фундацыі мясц. пробашчам Пятром Шпаненбергам і яе зацвярджэння біскупам Ф.П.Турскім у 1773). У 1736, 1739—65 працавалі ў *Віленскай духоўнай семінарыі*. Месцамі душпастарскай дзейнасці К. сталі прэпазітуры ў Камянцы (1717), Беластоку (1746), Шкудах у Жамойці, Бераставіцы, шпітальная прэпазітура св. Роха ў Вільні. У канцы 18 ст. К. працавалі ў шматлікіх парафіях у Віленскім і Луцка-Берасцейскім біскупствах (на мяжы 18—19 ст. ў Берасцейскім біскупстве — у 23 парафіях). У Рэчы Паспалітай К. мелі свайго старшыню, якога выбіралі на генеральным капітуле на 8 гадоў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Камянец** (цяпер горад, цэнтр Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Камянецкага павета* Берасцейскага ваяв., на р. Лясная (прыток Зах.Буга). Паводле



**Камянец**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

Іпацьеўскага летапісу, заснаваны валынскім князем Уладзімірам Васількавічам у 1276, калі была закладзена *Камянецкая вежа*. У 1289 К. разбурыў дарагічынскі князь Юрый Львовіч. У 1-й пал. 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1375, 1378 і 1379 ст. на К. нападалі крыжакі, належаў князю *Кейстуту*. У 1382 заняты зяцем Кейстута князем Янушам Мазавецкім, у 1383 — Ягайлам, які ў 1384 аддаў К. Вітаўту. У час барацьбы Ягайлы з Вітаўтам у 1388—92 у 1392 заняты войскам Ягайлы, пасля замірэння тут праходзілі нарады двух уладароў. У 1409 Ягайла прыняў у К. паслоў ад папы рымскага Аляксандра V, у К. існаваў палац-замак. У 1413 цэнтр павета ў Троцкім ваяв., знаходзіўся на гандл. шляхах з Берасця ў Гародню і з Кракава ў Вільню. У часы вял. князя Казіміра камянецкім яўрэям дазволілі пабудаваць сінагогу. У 1500 да горада падыходзіла 15-тысячная конніца Менглі-Гірэя, але, відаць, поспеху не мела. 26.6.1503 горад атрымаў магдэбургскае права. У 1524 нададзены герб: на блакітным полі выява сярэбранай вежы. З 1520 у Падляшскім, з 1566 у Берасцейскім ваяв. У сярэдзіне 16 ст. ў К. 3—4 тыс. ж. У 17—18 ст. існавалі Камянецкія замкава-палацавыя комплексы, дзейнічала тэкстыльная мануфактура Радзівілаў. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 К. разбураны. У 1661 сойм Рэчы Паспалітай вызваліў



камянецкіх мяшчан ад усялякіх падаткаў на 4 гады. У 1673 пабудаваны манастыр пры Уваскрасенскай царкве. У 1723 пабудаваны касцёл. У 1774 тут нарадзіўся палітычны і царк. дзеяч, багаслоў-асветнік М.Ф.*Карповіч*. У 2-й пал. 17 ст. ў К. 13 вуліц. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Камянецкага р-на. Мн., 1997.

***Валерый Грынявецкі.***

**Камянецкае паўстанне 1754—56**, антыфеадальнае выступленне сялян Камянецкай вол. Мазырскага павета. Выклікана прыгнётам з боку мясцовай адміністрацыі. Хваляванні пачаліся яшчэ ў 1736, а ў 1754 перараслі ва ўзброенае выступленне. Гэтаму спрыяла паўстанне *гайдамакаў* 1754 у суседняй Жытоміршчыне. Найб. раннія звесткі аб выступленні сялян адносяцца да 7.9.1754, калі загадам вял. гетмана М.К.Радзівіла Рыбанькі для падаўлення паўстання ў Камянецкую вол. накіраваны 2 харугвы пад камандаваннем ротмістраў Бараноўскага і Швыйкоўскага. У кастр. 1755 гэтыя харугвы пасланы на падаўленне новага выступлення сялян, аднак іх было недастаткова, і ў ліст. 1755 Радзівіл накіраваў супраць сялян яшчэ 4 харугвы (70 коннікаў) на чале з Панятоўскім. Да студз. 1756 паўстанне ахапіла ўсю Камянецкую вол. (больш за 700 сял. двароў). Сабраўшыся каля мяст. Славечна, паўстанцы далі адпор харугвам Панятоўскага і прымусілі іх да ўцёкаў. Некалькі тысяч сялян стварылі ўмацаваны лагер і пакляліся «змагацца да апошняга, хоць і галовы прыйшлося б пакласці». У лют.—сак. 1756 Панятоўскі з войскам у 400 чал. і гарматамі зноў рушыў да Славечна. Пасля таго як сяляне адмовіліся ад прапанаванай капітуляцыі, вайскоўцы штурмам узялі іх лагер. Паўстанцы страцілі 60 чал. забітымі, некалькі дзесяткаў чалавек патанула ў балотах, каля 60 чал. узяты ў палон. Многія ўдзельнікі выступлення пакараны смерцю, некаторых білі бізунамі, 4 кіраўнікоў паўстання пасадзілі на кол, 10 сял. важакоў адасланы ў Нясвіж на суд да Радзівіла. Іл. гл. ў т. 1, с. 146.

*Літ.*: Lech M.J. Milicje Radziwiłłów jako oręż feudałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki. Białystok, 1962. T. 3; Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982.

***Васіль Мялешка.***



**Камянецкая вежа.**

**Камянецкая вежа**, Камянецкі стоўп, «Белая вежа», помнік абарончага дойлідства 13 ст. Пабудаваны ў г. Камянец на левым беразе р. Лясная. Паводле Іпацьеўскага летапісу, пабудавана паміж 1276 і 1288 дойлідам Алексай па загадзе валынскага князя Уладзіміра Васількавіча як парубежны фарпост. Вежа размяшчалася ўнутры кальцавога вала і дамінавала над драўлянымі ўмацаваннямі. З боку р. Лясная да ўмацаванняў падступала балоцістая нізіна, з трох бакоў яго акружаў роў. Вышыня 5-яруснай вежы каля 30 м, таўшчыня сцен 2,5 м. Вонкавы дыяметр 13,6 м, вышыня падмурка каля 2,3 м, дыяметр 16 м. Вежа змуравана з брусчатых цаглін цёмна-чырвонага і жаўтаватага колераў (26,5 x 13,5 x 8 см) з характэрнымі падоўжнымі паглыбленнямі ў ніжняй частцы. Муроўка «балтыйская» — 2 «рубы» паслядоўна чаргуюцца з адным «старчаком»; звонку на сценах вежы захавалася шмат прамавугольных паглыбленняў ад рыштаванняў. Унутры гнёзды ад драўляных бэлек — перакрыццяў 5 ярусаў. Перакрыцці 2-га і 3-га ярусаў былі падвойныя. Да 1903 над 1-м і 2-м ярусамі былі скляпенні, цэгла і раствор якіх значна адрозніваліся ад цэглы і раствору ў муроўцы сцен вежы. Паверхня сцен прарэзана байніцамі, паміж якімі размешчаны 4 плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем. Над 5-м ярусам захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення з патоўшчанымі рэбрамі, якія заканчваюцца ўнізе невял. кранштэйнамі з вузкім пояском. Гэта скляпенне (мяркуючы па цэгле і растворы) было пабудавана адначасова з вежай. З 5-га яруса пачынаюцца цагляныя ўсходы, якія вядуць наверх да баявой пляцоўкі. Яны праразаюць тоўшчу сцяны і асвятляюцца 2 вузкімі акенцамі. Пляцоўка акружана 14 зубцамі, якія маюць скразную адтуліну, роўную па велічыні рубу цагліны. У 2 зубцах зроблены вузкія праёмы. Завяршэнне вежы акружана зубчастай стужкай парэбрыка. Аб'ём вежы звужаецца ўверсе, не мае ні вертыкальных, ні гарызантальных члянення́ў, аформлены стральчатымі вокнамі і праёмамі, паўцыркульнымі плоскімі нішамі і байніцамі. Вежа адносіцца да тыпу валынскіх і мае шмат агульнага з вежамі тыпу «данжон», пашыранымі ў 12—13 ст. ў краінах Зах. Еўропы.

**Камянецкі** (Kamieniecki) Вітальд (9.3.1883, Варшава—9.3.1964), польскі гісторык, публіцыст, палітычны дзеяч. Д-р габілітаваны (1926). Вучыўся ў Венскім і Кракаўскім ун-тах. Узначальваў Геаграфічна-гіст. кабінет АН у Кракаве (1909—10), супрацоўнік Б-кі Ардынацыі Красінскіх у Варшаве (1912—15). У 1917 у Часовай дзярж. радзе, разам з Э.Сапегам кіраваў Літоўскім камітэтам, потым у Рэгенцкай радзе. Падтрымліваў праграму федэратыўнай будовы Польскай рэспублікі. Пасол Устаноўчага сейма 1919—20. Паверaны ў справах у Латвіі ў 1920—22, уваходзіў у склад дэлегацыі па падрыхтоўцы Рыжскага мірнага дагавора 1921. Сенатар у 1928—35. Выкладаў палітычную гісторыю Польшчы і Літвы на дыпламатычных курсах Львоўскага ун-та ў 1932—37, дырэктар Львоўскага ун-та ў 1932—37, дырэктар Б-кі Ардынацыі Красінскіх у Варшаве ў 1938—39. У 1946 дацэнт кафедры сярэдневяковай гісторыі Усх. Еўропы Варшаўскага ун-та. Асн. працы прысвечаны гісторыі ВКЛ, метадалогіі гісторыі, гістарыяграфіі.

*Тв.*: Rozwój własności na Litwie w dobie przed I. Statutem: (studya historyczno-gospodarcze). Kraków, 1914; Państwo litewskie. Warszawa, 1918; Ponad zgiełkiem walk narodowościowych: idea jagiellońska. Warszawa, 1929; Społeczeństwo litewskie w XV w. Warszawa, 1947; Historycy i politycy warsawscy 1900—1950. Wrocław, 1992.

**Камянецкі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Да 1320-х. г. Камянецкая вол. уваходзіла ў Берасцейскую зямлю *Галіцка-Валынскага княства*, потым у складзе ВКЛ. Статус павета валасць атрымала пры ўтварэнні у 1413 *Троцкага ваяводства* (але ў далейшым неаднаразова ўпамінаецца і як валасць). Пры ўтварэнні *Падляшскага ваяводства* ў 1513 у яго быў уключаны К.п., але пазней у некаторых выпадках па-ранейшаму лічыцца ў Троцкім ваяв. На пасадзе камянецкіх намеснікаў вядомы: Мікалай Насута, Пац Доўкшавіч (каля 1445—53), Фёдар Алізаравіч Шылавіч (1454), Іван Рагацінскі (1461), Ян Насуціч, Аляксандр Дрожджа, С.А.Гальшанскі (1489—1501), С.А.Чартарыйскі (1507—18), Б.Багавіцінавіч (1518—30), М.Ю.Пац (1532—46), К.Заслаўскі (1546—56). Паўн. частку К.п. займала амаль ненаселеная Белавежская пушча, частка якой адносілася да маёнтка Шарашова, падараванага Вітаўтам М.Насуту. У паўд. частцы знаходзіліся адносна невял. маёнткі, падараваныя шляхце і магнатам (Вярховічы, Коранева, Расна, Трасцяніца, Чамяры і інш.). Рэшту стварала Камянецкая дзяржава (староства) з лясніцтвам, да якога ў сярэдзіне 16 ст. далучана і пушча, набытая разам з Шарашовам у 1536 каралевай Бонай у Ю.Ілініча. У 1528 шляхецкае апалчэнне К.п. налічвала 69 коннікаў. У выніку адм. рэформы 1565—66 павет скасаваны і далучаны да *Берасцейскага павета*.

***Вячаслаў Насевіч.***



**Камянец-Падольскі замак**. Гравюра. 1672.

**Камянец-Падольскі замак**, абарончы комплекс 11—19 ст. у г. Камянец-Падольскі (цяпер раённы цэнтр Хмяльніцкай вобл. Украіны). Размешчаны на скалістым мысе р. Смотрыч, з паўн.-ўсх. боку злучаны вузкім перашыйкам са Старым местам Камянца-Падольскага. Паводле свайго сітуацыйнага размяшчэння замак ахоўваў подступы да плато, на якім ляжаў горад. Мяркуецца, што мураваныя ўмацаванні пабудаваны ў 11 ст. на аснове больш ранніх дрэва-земляных. Паводле меркавання інш. спецыялістаў (Т.Поляк), зах. каменны мур і далучныя да яго 4 квадратная ў плане вежы былі збудаваны ў 13 ст. Рэшткі ўмацаванняў перыяду Кіеўскай Русі выяўлены ў розных частках замка: у Дзённай вежы — фрагмент муру з байніцамі; пасярэдзіне замкавага двара — рэшткі невял. авальнай у плане вежы. У канцы 12—пач. 13 ст. тэрыторыя замка займала плошчу каля 550 м², шырыня была 22 м, даўжыня 25 м. З напольнага боку меўся каменны мур з зубцамі і шчылінападобнымі байніцамі. У час паходу Батухана 1240—41 замак узяты мангольскім войскам; паводле загаду баскакаў абарончыя збудаванні разабраны. Ад мангольскага панавання Падолле і К.-П.з. вызвалены пасля пераможнай *бітвы каля Сініх Вод 1362*. На Падоллі замацаваліся князі Юрый, Аляксандр і Канстанцін *Карыятавічы*. Яны адбудавалі знішчаны замак: аднавілі муры, лінія якіх была замкнута ва ўсх. частцы замка, дабудавалі вонкавыя акруглыя ў плане вежы. Дзядзінец меў трохвугольны план. У 1393 К.-П.з. узяў вял. кн. Вітаўт, пасля таго як Фёдар Карыятавіч адмовіў яму ў паслушэнстве. У 1395 Ягайла перадаў Падолле кракаўскаму ваяводу Спытку з Мельштына (загінуў у 1399 у бітве на Ворскле), які пачаў значную разбудову К.-П.з. У 1411 Падолле і К.-П.з. у пажыццёвае ўладанне ад Ягайлы атрымаў Вітаўт. У 1432 вял. кн. Жыгімонт Кейстутавіч канчаткова перадаў Польшчы Зах. Падолле і К.-П.з. З 1463 Камянец-Падольскі быў цэнтрам Падольскага ваяв., рэзідэнцыя ваяводы знаходзілася ў замку. У сярэдзіне 15 ст. замак перапланаваны — старыя вежы мадэрнізаваны, закладзена 10 новых (захавалася 8). У 3-й чвэрці 15 ст. рэалізавана канцэпцыя абарончагідратэхнічнага комплексу, якая мела на мэце штучнае аднаўленне затопленага вадою прыроднага кан'ёна. Наступная рэканструкцыя адбылася ў 1540-х г. пад кіраўніцтвам вайсковага інжынера і прыдворнага архітэктара Жыгімонта Старога Іоба Брэтфуса (Прэтфуса), які пабудаваў Новую Зах. вежу з барбаканам і Новую Усх. вежы (над даўняй студняй, што захавалася да нашага часу, як і сама вежа), а таксама Польную браму з мостам (рэшткі выяўлены ў час даследаванняў), узведзены зубцы на паўд. муры. Стала 12 вежаў, прыстасаваных да агнястрэльнай зброі. Рэканструкцыя, у т.л. пабудова Папскай вежы ў 1503—13, праводзілася на датацыі рымскіх папаў Юлія II і Льва X, якія імкнуліся ўмацаваць цвярдыню на мяжы хрысціянскага свету з Турцыяй. У 1621 у сувязі са з'яўленнем дальна-


**Камянец-Падольскі замак**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

бойнай артылерыі вайсковы спецыяліст Тэафіл Шомберг пабудаваў перад зах. фасадам замка каменна-земляныя бастыённыя ўмацаванні новаітальянскай сістэмы, якія атрымалі назву Новая фартэцыя (замак). Нягледзячы на мадэрнізацыю, у 1672 замак узяты турэцкім войскам на чале з султанам Магаметам IV. Пад турэцкім панаваннем знаходзіўся да 1699. Турэцкія ўлады правялі сваю мадэрнізацыю фартэцыі, яе гарнізон дасягнуў 6 тыс. чал. К.-П.з. стаў адной з наймагутнейшых асманскіх фартэцый. Касцёл св. Станіслава ў паўд. частцы замка быў перабудаваны ў мячэць. У 2-й пал. 18 ст. значную мадэрнізацыю К.-П.з. правялі інжынеры Рэчы Паспалітай. У 1762 генерал-маёр кароннага войска шведскі інжынер Крысціян Дальке, які з 1759 быў камендантам фартэцыі, дабудаваў Паўд. дзядзінец (бастыён). У 1783 камендант Ян дэ Вітэ рэканструяваў Польную (Польскую) браму. У 1790—91 Станіслаў Завадзкі пабудаваў Паўн. дзядзінец (бастыён). Усе гэтыя змены сведчылі аб павышэнні ролі артылерыі ў абароне. Ва ўнутраным двары былі пабудаваны карпусы казармаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) замак у складзе Рас. імперыі. Рас. ўлады праводзілі свае рэканструкцыі. Як вайсковая фартэцыя замак значыўся да 1812. У далейшым — гарнізонны аб'ект з турмою і шпіталем. На сёння захаваліся 11 вежаў. Нягледзячы на шматлікія рэканструкцыі, замак — цэласны архітэктурны ансамбль. Унікальнай інжынернай пабудовай з'яўляецца замкавы мост, які некаторыя даследчыкі звязваюць з рымскім часам, што выклікае абгрунтаваныя пярэчанні інш. спецыялістаў. У 1928 урадам УССР замак разам са Старым местам Камянца-Падольскага абвешчаны рэспубліканскім гіст.-культурным запаведнікам; з 1937 у замку знаходзіцца музей. Актыўныя археалагічныя, архітэктурныя і гіст. даследаванні замка пачаліся ў 1960-я г. і цяпер працягваюцца ўкр. (Е.Пламяніцкая, А. Пламяніцкі, Г. Хацюн, І.Вінакур, М.Пятроў) і польскімі спецыялістамі (Т.Новак, П.Окань, Я.Рымша, Я.Янчыкоўскі). У 1990-я г. пачата рэстаўрацыя комплексу Старога і Новага замкаў, а таксама моста (знаходзіцца ў аварыйным стане); за ніжнюю дату рэстаўрацыі абраны 1540-я г.

*Літ.*: Б у д я н с ь к а Т. Замок у Кам'янці-Подільському. Київ, 1961; N o w a k T. Twierdza Kamieniec Podolski w 18 w. na tle polskiej fortyfikacji na ziemiach zagrożonych najazdami turków i tatarów // Fortyfikacja. Warszawa, 1995. T .1; П л а м е н и ц ь к а О. А. Оборонно-гідротехнічний комплекс у Кам'янці-Подільському // Пам'ятки України. 1998. № 3—4; Kamieniec Podolski: Studia z dziejów miasta i regionu. Kraków, 2000. T. 1; М а л ь ч е н к о О. Укреплені поселення Брацлавського, Київського і Подільського воєводств (XV—середина XVII ст.). Київ, 2001.

***Алег Дзярновіч.***

**Кананові́ч-Гарбацкі** Іосіф, гл. *Іосіф*.

**Канапчынскі** (Konopczyński) Уладзіслаў (26.11.1880, Варшава—13.7.1952), польскі гісторык. Правадзейны чл. Польскай АН у Кракаве (1933), д-р габілітаваны (1911), праф. (1917). Вучыўся ў Варшаўскім (1899—1903) і Львоўскім ун-тах. З 1908 выкладаў у Таварыстве навук. курсаў у Варшаве, з 1913 у Кракаўскім ун-це. У 1922—27 пасол (дэпутат) сейма. У 1939—40 зняволены фашыстамі ў канцлагеры Заксенгаўзен. Вывучаў гісторыю Рэчы Паспалітай 18 ст., яе дзярж. лад, адносіны са Швецыяй, Турцыяй, Англіяй, Прусіяй, гісторыю «балтыйскага пытання», Барскай канфедэрацыі. Выдаў шматлікія гіст. крыніцы. Ініцыятар выдання і рэдактар (1935—48) «Польскага слоўніка біяграфічнага». Прычыны слабасці Рэчы Паспалітай бачыў у заганным грамадскім ладзе і застоі шляхецкай дэмакратыі, ідэальнай лічыў сістэму англійскага парламентарызму, да якой Рэч Паспалітая наблізілася ў выніку рэформ 18 ст. Прыхільнік псіхалагічнага кірунку ў гістарыяграфіі.

*Тв.*: Polska w dobie wojny siedmioletniej. Cz. 1—2. Kraków; Warszawa, 1909—11; Mrok i świat: Studya historyczne. Warszawa, 1911; Geneza i ustanowienie Rady Nieustającej. Kraków, 1917; Liberum veto: Studium porownawczo-historyczne. Kraków, 1918 (2 wyd. 2002); Od Sobieskiego do Kościuszki: Szkice, drobiazgi, fraszki historyczne. Warszawa etc., 1921; Polska a Szwecja od pokoju oliwskiego do upadku Rzeczypospolitej, 1660—1795. Warszawa, 1924; Stanisław Konarski. Warszawa, 1926; Kazimierz Pułaski. Kraków, 1931; Dzieje Polski nowożytnej. T. 1—2. Warszawa etc., 1936 (4 wyd. Warszawa, 2003); Konfederacja barska. T. 1—2. Warszawa, 1936—38 (2 wyd. 1991); Polska a Turcja, 1683—1792. Warszawa, 1936; Kwestia bałtycka do XX w. Gdańsk, 1947; Fryderyk Wielki a Polska. Poznań, 1947 (2 wyd. 1981); Chronologia sejmów polskich, 1493—1793. Kraków, 1948; Kiedy nami rządziły kobiety. Londyn, 1960.

*Літ.*: B i l i ń s k i P. Władysław Konopczyński: historyk i polityk II Rzeczypospolitej (1880—1952). Warszawa, 1999 (змешчана бібліяграфія прац. К.).

**Канарскі** (Konarski) Станіслаў (у свеце Геранім Францішак; 30.9.1700, в. Жарчыцы-Большыя каля Янджаёва, Польшча—3.8.1773), польскі асветнік, педагог і публіцыст. Вучыўся ў Рыме і Парыжы, падарожнічаў па Германіі і Аўстрыі, дзе вывучаў філасофію, рыторыку, лацінскую л-ру, новыя метады навучання і выхавання. З 1715 член ордэна *піяраў*. З 1741 кіраўнік правінцыі піяраў у Польшчы. Пачаў справу рэфармавання піярскіх школ Рэчы Паспалітай. Надаваў вял. значэнне вывучэнню роднай мовы і прыродазнаўства, абгрунтоўваў неабходнасць эстэтычнага і фізічнага выхавання дзяцей, правядзення практычных работ за кошт скарачэння курса тэалогіі, прытрымліваўся думкі, што школа павінна даваць не толькі веды, але і выхоўваць грамадзяніна. Аўтар школьных граматык, падручнікаў, палемічных палітычных твораў. У рабоце «Аб найлепшым спосабе ўлады» (1761—63) патрабаваў парламенцкай рэформы ў Рэчы Паспалітай, выступаў супраць *ліберум вета*. Займаўся даследаваннем крыніц па гісторыі



С.**Канарскі**.



права. Падрыхтаваў да друку *Валюміна легум* (т. 1—6, 1733—39).

*Тв.*: Wybór pism politycznych. Kraków, 1925; Pisma wybrane. T. 1—2. Warszawa, 1955; Pisma pedagogiczne. Warszawa; Kraków, 1959.

*Літ.*: Konopczyński W. Stanisław Konarski. Warszawa, 1926; Nowak-Dłużewski J. Stanisław Konarski. 2 wyd. Warszawa, 1989.

**Канарскі** (Konarski) Шыман (26.4.1894, в. Бідзіны, Апатаўскі пав., Польшча—12.6.1981), польскі гісторык, генеалог. Скончыў Гандлёвую акадэмію ў Кракаве (1916), Вышэйшую с.-г. школу ў Варшаве (1918), Гал. школу сельскай гаспадаркі (1925). У 1914—15 ваяваў у польскіх легіёнах. Працаваў банкаўскім служачым, з 1939 у Францыі. У працах К. шмат матэрыялаў па гісторыі, генеалогіі і геральдыцы ВКЛ. Адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар «Матэрыялаў да польскай біяграфіі, генеалогіі і геральдыкі» (т. 1—6, 1963—74), дзе апублікаваў манаграфію пра род Плятэраў. У рукапісах засталіся манаграфіі пра роды Чарноцкіх і Ванько832вічаў. Аўтар мемуараў. Архіў К. зберагаецца ў зборах Фонду Лянцкаронскіх ў Лондане. З яго спадчыны выдадзены паказальнікі прозвішчаў да «Польскага гербоўніка» А.Банецкага і «Слоўніка геаграфічнага Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін».

*Тв.*: Szlachta kalwińska w Polsce. Warszawa, 1936 (2 wyd. Warszawa, 1993); Kanoniczki warszawskie. Paryż, 1952; Armorial de la noblesse polonaise titrée. Paris, 1958; Kirkorowie herbu własnego: Szkic genealogiczny. Londyn, 1963; Świdowie herbu Grabie odmienne. Paryż, 1966; Bomberaki, cacypupki i łapiduchy. Londyn, 1967; Platerowie. Buenos Aires; Paryż, 1967. (Materiały do biografii, genealogii i heraldyki polskiej. T. 4); O heraldyce i «heraldycznym» snobizmie. 2 wyd. Warszawa, 1992; Indeks nazwisk do «Herbarza polskiego» Adama Bonieckiego. Warszawa, 1993; Słownik geograficzny Królestwa polskiego i innych krajów słowiańskich: indeks nazwisk. Warszawa, 1995.

*Літ.*: Gorski K. Szymon Jaxa in memoriam // Materiały do biografii, genealogii i heraldyki polskiej. Rzym, 1985. T. 7/8 (змешчана бібліяграфія прац К.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Канвакацыя**, гл. ў арт. *Галоўны з'езд Вялікага княства Літоўскага.*

**Кангparты**, мянушка некаторых татарскіх родаў у ВКЛ. Паходзіць ад найменняя адной з татарскіх харугваў — Кандрацкай (ад назвы аднаго з цюркскіх плямён Залатой Арды — канграт, канкірат), большасць харугвавых татараў якой жыла ў Мерашлянах Віленскага ваяв. У навук. л-ры ўсталявалася думка, што род спадчынных харужых гэтай харугвы паходзіў ад улусных князёў племя канграт. У 15—16 ст. прадстаўнікі гэтага роду ў дакументах называюцца толькі з патронімамі. Родапачынальнік Тауш атрымаў ад вял. князя Вітаўта маёнтак Крычын (Старое Сяло) на р. Бярэзіна. Гэты род згас у канцы 16—пач. 17 ст. Родавую мянушку К. (Кандрат, Канкірат) выкарыстоўвалі з 17 ст. і некаторыя татарскія сем'і і асобы, што належалі да Кандрацкай харугвы. З родавай мянушкай Канрад-Мурза даказаў дваранства ў Гродзенскай губ. ў 1821 род Абулевічаў герба «Радван». З 17 ст. гэты род валодаў часткай маёнтка Лоўчыцы, потым Забалацця ў Навагародскім ваяв. Родавай мянушкай Канкірант-Мурза ў 19 ст. карысталася татарская сям'я Сабалеўскіх герба «Месяц» («Ляліва» зменeная), якая даказала ў 1819 у Віленскай губ. дваранства з княжацкім тытулам.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 637—639; Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 163—167; Думин С.В. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991. T. 20.

***Станіслаў Думін.***

**Канеў** (укр. Канів, цяпер горад, цэнтр Канеўскага р-на Чаркаскай вобл., Украіна), горад у Кіеўскім ваяв., на р. Дняпро. Упершыню ўпамінаецца пад 1147. У 1360-х г. ўвайшоў у склад ВКЛ, цэнтр староства. У 1510—36 канеўскім старастам быў А.*Дашковіч*. У 1536 адбылося *Канеўскае паўстанне 1536*. У 1578 у канеўскі манастыр былі перавезены астанкі Івана Падковы (пакараны ў Львове). У 1600 горад атрымаў магдэбургскае права. З 1569 у складзе Польшчы. Паводле люстрацыі Кіеўскага ваяв. 1616 у К. налічвалася 1346 казацкіх «непаслухмяных» і 160 «паслухмяных» двароў. У 1625 каля К. адбыўся бой паміж атрадамі гетмана Канецпольскага і казакамі, якія вымушаны былі адступіць. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* застаўся ў складзе Польшчы. Паводле Бучацкага мірнага дагавора 1672 адышоў да Турцыі. У 1674 канеўскі полк перайшоў на бок Расіі. Паводле *«Вечнага міру» 1686* паўд. Кіеўшчына рабілася нейтральнай зонай, але фактычна заставалася ў Польшчы. У 1702 заняты атрадамі С.Палія, паводле Пруцкага міру 1711 застаўся ў Польшчы. У час Каліїўшчыны ў чэрв. 1768 канеўскім замкам авалодаў загон С. Нежывога. Пасля 1775 К. уласнасць *Станіслава Аўгуста Панятоўскага*, які ў 1777 аддаў горад свайму пляменніку С.Панятоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Канеўскае паўстанне 1536**, выступленне мяшчан і казакоў г. *Канеў* супраць павіннасцей, накладзеных чаркаскім і канеўскім старастам А.*Дашковічам*. Ён фактычна скасаваў самакіраванне падначаленых яму гарадоў, узяў пад свой кантроль усё іх унутранае жыццё, абклаў мяшчан шматлікімі падаткамі, урэзаў або скасаваў гарадскія свабоды, нават тыя, што датычылі транзітнага гандлю, продажу ваенных трафеяў і палонных. Дашковіч падпарадкаваў сваёй уладзе частку абшчыннікаў, новых перасяленцаў, узяў пад кантроль у межах падпарадкаваных яму тэрыторый перамяшчэнне казакоў. У значнай меры дзеянні Дашковіча былі выкліканы патрэбамі барацьбы з татарскімі нападамі, неабходнасцю падтрымліваць замкі. Паўстанне пачалося пасля смерці Дашковіча пад уздзеяннем *Чаркаскага паўстання 1536*. Канеўцы падтрымалі чаркасцаў і таксама выгналі з горада ўраднікаў. Але пасланы з Кіева атрад хутка падавіў выступленне ў Каневе і рушыў на Чаркасы. Пацярпеўшы пад Чаркасамі паражэнне, карнікі вярнуліся ў Канеў. Уначы яны напалі на горад і пачалі рабаваць мірнае насельніцтва. Абураныя канеўскія казакі і мяшчане на чале з войтам П.Брадовічам і мешчанінам М.Зянкевічам разбілі карны атрад. Апасаючыся пашырэння руху на Падняпроўі, урад быў вымушаны абвясціць паўстанцам амністыю і прызначыць у Канеў новых ураднікаў.

*Літ.*: Яковлев А. Бунт черкасцев і каневцев в 1536 году // Україна. Київ, 1907. Т. 1; Черкас Б.В. Остафій Дашкович — черкаський і канівський староста XVI ст. // Український історичний журнал. 2002. № 1.

***Валерый Пазднякоў.***



**Канечны** (Koneczny) Фелікс Караль (1.11.1862, Кракаў—10.2.1949), польскі гісторык, публіцыст. Д-р габілітаваны (1920). Вучыўся ў Кракаўскім ун-це (1883—88). З 1891 ад'юнкт у АН у Кракаве, з 1897 супрацоўнік Ягелонскай б-кі. З 1919 у Віленскім ун-це, намеснік прафесара, праф. надзвычайны (1920), праф. звычайны (1922), узначальваў кафедру гісторыі Усх. Еўропы. У 1929 выступіў з крытыкай урада, за што адпраўлены ў адстаўку. У 1945 выкладаў у Кракаўскім ун-це. У пачатку навук. дзейнасці вывучаў гісторыю Тэўтонскага ордэна, адносіны паміж Польшчай і ВКЛ, гісторыю Сілезіі. Аўтар навукова-папулярных прац па гісторыі, падручнікаў. Быў прыхільнікам супрацоўніцтва славянскіх народаў і польска-рас. згоды, у 1905—14 рэдагаваў у Кракаве час. панславісцкага кірунку «Świat słowiański» («Славянскі свет»). Пазней набыў вядомасць рэлігійна-містычнымі працамі, у якіх развіваў месіянскія погляды на ролю Польшчы ў гісторыі і ўклад палякаў у сусв. культуру, што асабліва выявілася ў працы «Польскія Логас і Этас» («Polskie Logos i Ethos», т. 1—2, 1921). Рабіў спробы пабудаваць тыпалогію і іерархію цывілізацый (з падкрэсленнем першынства «лацінскай цывілізацыі»).

*Тв.*: Jagiełło i Witołd. Cz. 1. Podczas unii krewskiej (1382—1392). Lwów, 1893; Dzieje Śląska. Bytom, 1897; Dzieje Polski za Jagiellonów. Kraków, 1903; Tadeusz Kościuszko. Poznań, 1917 (3 wyd. Warszawa, 1996); Dzieje administracji w Polsce w zarysie. Wilno, 1924 (2 wyd. Warszawa, 1999); Polska między Wschodem i Zachodem. Lubin, 1928; Litwa a Moskwa w latch 1449—1492. Wilno, 1929; O ład w historii. Warszawa, 1983 (4 wyd. Wrocław, 2004; змешчана бібліяграфія прац К); Prawa dziejowe. Cz. 1—3. Warszawa, 1985—88; Państwo i prawo. Kraków, 1997; O sprawach ekonomicznych. Kraków, 2000.

*Літ.*: Skoczyński J. Koneczny: Teoria cywilizacji. Warszawa, 2003.

**Каніскі** Георгій, гл. *Георгій*.

**канонікі рэгулярныя ад пакуты**, маркі, манахі каталіцкага манаскага ордэна (лац. Ordo canonicorum regularium mendicantium S. Mariae de metro de poenitentia). Ордэн канчаткова афармлены ў 1295 папам Баніфацыем VIII. У Польшчы з'явіліся ў 1257, іх называлі «маркамі» ад гал. кляштара пры касцёле св. Марка ў Кракаве. У ВКЛ манахаў запрасіў Ягайла ў пачатку хрышчэння літоўцаў, звалі іх «белымі аўгусцінцамі» па колеры адзення. Да канца 18 ст. належалі да Кракаўскай генеральнай правінцыі. Існавалі пры касцёлах у Быстрыцы (1390, адсюль паходзіў благаслаўлёны Міхал Гедройц), Медніках (1391), Тверачы (1501), Відзішках (1618, засн. ваяводам мсціслаўскім Марцінам Гедройцам), Міхалішках (1622, заснаваны рэферэндарам ВКЛ Янам Бжастоўскім), Панемунях (1640, засн. Марцінам Гедройцам), Вільні (1649), Мёрах (1650, засн. Себасцьянам Мірскім), Кветках, Южынтах, Скеманах, Смолвах, Сувеку. Скасаваны ў 1832 (апрача віленскага).

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**канонікі рэгулярныя латэранскія**, манахі каталіцкага манаскага ордэна (Ордэн канонікаў рэгулярных святога Аўгусціна Латэранскай кангрэгацыі Найсвяцейшага Збавіцеля, лац. Ordo Canonicorum Regularium Sancti Augustini Congregatio Lateranensis Sanctissimi Salvatoris, CRL). Ордэн утварыўся ў сярэдзіне 11 ст. пры базіліцы св. Яна на Латэранскім пагорку ў Рыме. Прыбылі ў Кракаў у 1399 з Чэхіі па запрашэнні Ягайлы, які выконваў пажаданне каралевы Ядвігі. У 1405 Ягайла фундаваў іх кляштар, а біскуп Пётр Выш перадаў ім парафію і касцёл Божага Цела. Дзякуючы падтрымцы Ягайлы і Казіміра IV у Польшчы з'явілася яшчэ некалькі кляштараў. У 1-й пал. 15 ст. ўсталявалі кантакты з канонікамі рэгулярнымі ў Рыме, аднак не апелявалі да гіст. сувязі з базілікай св. Яна. У 1503 кракаўская супольнасць афіцыйна далучана да Латэранскай кангрэгацыі, аднак толькі з 1609 яе сталі вызначаць як латэранскую. У 1628 К.р.л. Польшчы пазбаўлены аўтаноміі, у 1629 афіцыйна створана Кракаўская кангрэгацыя К.р.л., зацверджаная папам Урбанам VIII у 1644. Яна аб'яднала ўсе кляштары К.р.л. Рэчы Паспалітай. У пач. 17 ст. дзякуючы кракаўскаму прэпазіту (настаяцелю) М.Клачынскаму кляштары К.р.л. з'явіліся ў гарадах і мястэчках ВКЛ: Крамяніцы (1617, фундатар — кашталян віцебскі М.З.Вольскі), Старым Быхаве (1618, фундатар — гетман Я.К.Хадкевіч, існаваў касцёл св. Казіміра), Вільні (1625, фундатар — біскуп А.Валовіч, размясціліся пры касцёле Пятра і Паўла), Слоніме (1650, фундатар — падкаморы ВКЛ К.Л.Сапега). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) быхаўскія канонікі збудавалі новы касцёл св. Антонія і Казіміра ў Азяранах (Рэчыцкі пав.). Рэзідэнцыю К.р.л. заснаваў у Журавічах Рэчыцкага пав. К.Юдыцкі. Мелі значныя школы ў Азяранах, Відзах і Слоніме. У 1796—1864 існавала асобная правінцыя К.р.л. з цэнтрам у Вільні.

*Літ.*: Kanonicy regularni laterańscy w Polsce: Studia z dziejów kongregacji krakowskiej XV—XIX wieku. Kraków, 1975; Pietrzkiewicz I. Księgozbiory konwentów i szkół kanoników regularnych laterańskich na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego // Nasza przeszłość. 1999. T. 92; Łatak K. Kongregacja krakowska kanoników regularnych laterańskich na przestrzeni dziejów. Kraków, 2002.

**Канаплі**, гл. *Друцкія-Канаплі*.

**Канстанцін** Бязрукі (?—пасля 1292), князь полацкі, віцебскі. Паходзіў, відаць, са смаленскай княжацкай дынастыі. У 1250-я г. княжыў у Полацку. Страціў частку полацкіх уладанняў у Латгаліі на карысць Інфлянцкага ордэна. Знаходзіўся, мабыць, у даволі напружаных адносінах з полацкім епіскапам Сімяонам. У канцы 1250-х г. страціў Полацк, дзе стаў княжыць *Таўцівіл*. Нейкі час жыў у Ноўгарадзе, там меў свой двор. У складзе кааліцый рус. князёў у 1262 і 1268 удзельнічаў у паходах адпаведна на Юр'еў (Тарту) і Ракавор (Раквере) у Эстоніі. Пазней княжыў у Віцебску. У 1292 адзін з 4 прадстаўнікоў вял. князя ўладзімірскага Дзмітрыя Аляксандравіча на перагаворах з немцамі. Быў жанаты з дачкой Аляксандра Неўскага. Меў 2 сыноў, з якіх *Міхаіл Канстанцінавіч* на мяжы 13—14 ст. быў віцебскім князем.

*Літ.*: Русско-ливонские акты. СПб., 1868; Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Baumgarten N. Polotzk et la Lithuanie une page d'histoire // Orientalia Christiana Periodica. 1936. № 1—2; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950; Кучкин В.А. Особая редакция «Наказания» Симеона Тверского // Изучение русского языка и источниковедение. М., 1969; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977, 1980; Александров Д.Н., Володихин Д.М. Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII—XVI веках. М., 1994; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыя-

ды. 2 выд. Мн., 2001; Сэларт А. Полацкі князь Канстанцін і гісторыя Інфлянтаў у трэцяй чвэрці XIII ст. // Бел. гіст. агляд. 2004. Сш. 1—2.

*Васіль Варонін.*

**Канстанцкі сабор 1414—18**, сабор каталіцкай царквы, скліканы ў нямецкім г. Констанц з мэтай пакласці канец яе расколу; буйнейшы дыпламатычны кангрэс, на якім вырашаліся важнейшыя міжнар. пытанні, найперш звязаныя з прэтэнзіямі германскага імператара Сігізмунда I на палітычную гегемонію ў Еўропе. Напярэдадні сабора дзейнічалі 3 папы, асаблівы размах набылі «ерасі» паслядоўнікаў Я.Гуса ў Чэхіі, Дж.Уікліфа ў Англіі і інш. Па ініцыятыве Сігізмунда I і антыпапы Яна XXIII барацьба супраць ерасі стала гал. у дзейнасці сабора. У 1415 на саборы быў асуджаны на спаленне Гус, што стала штуршком да гусіцкіх войнаў у Цэнтр. Еўропе. У 1417 скасаваны паўнамоцтвы ўсіх ранейшых папаў і выбраны адзін папа Марцін V, абвешчана вяршэнства сабораў над папамі.

У дзейнасці сабора актыўна ўдзельнічалі дэлегацыі ВКЛ, аўтарытэт якога пасля *Вялікай вайны 1409—11* з Тэўтонскім ордэнам значна вырас. Вял. князь Вітаўт некалькі разоў накіроўваў у Констанц свае дэлегацыі. У 1415 ад яго імя падольскі староста Гедыгольд прапаноўваў перавесці бліжэй да Асманскай імперыі (у Паўн. Прычарнамор'е або на Кіпр) Тэўтонскі ордэн, які пасля хрышчэння Жамойці страціў фармальныя падставы для сваёй дзейнасці ў Прыбалтыцы і абвяргаў абвінавачванні ў патаемным супрацоўніцтве Вітаўта з асманамі. У 1416 на саборы значнае месца было адведзена спрэчкам паміж ВКЛ і ордэнам за Жамойць. 13.2.1416 разгледжана скарга ахрышчаных жамойтаў на ўціск з боку крыжакоў, якія працягвалі рабаўнічыя наезды. 17 чэрв. сабор прыняў кампраміснае рашэнне па Жамойці: у адм. дачыненні яна падпарадкавана імператару (г.зн. фактычна Тэўтонскаму ордэну), а ў царкоўным — польскім і літ. біскупам. Было вырашана стварыць асобную Жамойцкую дыяцэзію. 11.8.1416 львоўскі арцыбіскуп Ян Жашоўскі і віленскі біскуп Пётр з Варты прызначаны саборам дэлегатамі з абавязкам здзейсніць гэтыя рашэнні на месцы (прадоўжыць хрышчэнне жамойтаў, арганізаваць дыяцэзію, і інш.). У 1417 на саборы прысутнічаў «герцаг Павел з сапраўднай Русі, падначалены герцагу Вітаўту». Найб. прадстаўнічая дэлегацыя ВКЛ на чале з кіеўскім мітрапалітам Грыгорыем Цамблакам была накіравана ў Констанц у 1418. У яе ўваходзілі правасл. епіскапы з розных епархій ВКЛ і Малдовы, а таксама свецкія прадстаўнікі Кіева, Смаленска, Вял. Ноўгарада і інш. гарадоў. Яе мэтай было заключыць унію паміж правасл. і каталіцкай цэрквамі на тэр. ВКЛ, а таксама дамагчыся прызнання сюзерэнітэту Вітаўта над Малдовай і Ноўгарадам. У выніку Марцін V прызначыў Вітаўта генеральным вікарыем Ноўгарада, а ў лют. 1418 Грыгорый Цамблак прысягнуў папе ад імя правасл. царквы ВКЛ. Спроба уніі, аднак, засталася нерэалізаванай з-за супраціўлення правасл. духавенства ВКЛ і пазіцыі канстанцінопальскага патрыярхату. Каштоўнай крыніцай для вывучэння сабора з'яўляецца «Хроніка Канстанцкага сабора» Ульрыха фон Рыхенталя, у якой неаднаразова згадваецца Белая Русь.

*Літ.*: Piekosiński F. Goście polscy na soborze konstancyjskim // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział historyczno-filozoficzny. Ser. 2. Kraków, 1899. T. 12; Chodynicki K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Warszawa, 1934; Грабарь В.Э. Вселенские соборы западнохристианской церкви и светские конгрессы XV в. // Средние века. Л., 1946. Вып. 2; Dundulis B. Lietuvos kova pries kryžiuočius Konstanco bažnytiniame susirinkime (1414—1418 m.) // Vilniaus valstybinis V.Kapsuko vardo universitetas mokslo darbai. Istorijos-filologijos mokslų serija. Vilnius, 1958. T. 4; Ulrich Richental. Das Konzil zu Konstanz: Faksimileausgabe. Starnberg; Konstanz; Stuttgart, 1964; Begunov J. «Weisse Rus» und Weissrussen in einer Deutschen Chronik des 15. Jahrhunderts // Torschungen zur Osteuropaeischen Geschichte. Berlin, 1980. Bd. 27; Mačiukas Ž. Zigmantas Liuksemburgietis ir Žemaitijos byla Konstanco bažnytinianie susirinkime 1414—1418 metais // Lietuva ir jos kaimynai: Nuo normanų iki Napoleono. Vilnius, 2001; Флоря Б.Н. Татарские послы на Констанцком соборе // Русское Средневековье: Источники. 2000—2001 г. М., 2002.

*Алесь Белы.*

**канстытуцыя** соймавая (ад лац. constitutio лад), ухвала, пастанова вальнага *сойма* Рэчы Паспалітай. У

**Канстытуцыі** соймаў 1627, 1652, 1697.


CONSTITVCIE
SEYMV WALNEGO KORONNEGO
Warszawskiego, Roku Pańskiego, M. DC. XXVII.
Cum Gratia & Privilegio S. R. M.
W KRAKOWIE,


CONSTITVCIE
SEYMV WALNEGO
KORONNEGO
WARSZAWSKIEGO
SKROCONEGO.
Roku Pańskiego M. DC. LII.
Cum Gratia & Privilegio S. R. M.
W WARSZAWIE,


PRZYWILEIE
y
CONSTITUCIE
SEYMOWE
Za Panowania Iego Krolewskiey Mći
AUGUSTA II.
Roku Pańskiego M. DC. XC. VII.
Cum Gratia & Privilegio S. R. M.

ВКЛ тэрмін «К.» ўжываўся пасля Люблінскай уніі 1569. К. звычайна выдаваліся для ўсёй Рэчы Паспалітай, зрэдку асобна для Польшчы і ВКЛ. Сфера дзеяння яе не заўсёды акрэслівалася. Лічыцца, што такія К. дзейнічалі ў ВКЛ толькі тады, калі аб гэтым у іх меліся спец. агаворкі і калі К. былі абвешчаны на павятовых сойміках. Прымаліся К. вячыстыя, дзеянне якіх не абмяжоўвалася часам, і часовыя. Калі ў К. не агаворваўся тэрмін дзеяння, яна лічылася вячыстай. З канца 16 ст. пастановы аднаго сойма выдаваліся ў выглядзе зборніка, які лічыўся адной К. Друкаваныя экземпляры з дзярж. пячаткай і подпісамі маршалка сойма і канцлера рассылаліся па ваяводствах. Абнародаваліся К. на рэляцыйных сойміках, якія склікаліся ваяводамі (старастамі). На сойміках соймавыя паслы даводзілі пра рашэнні вальнага сойма і ўпісвалі К. ў земскія і гродскія кнігі. Падатковыя пастановы сойма (пабаровыя універсалы) не называліся К. і публікаваліся асобна. У 18—20 ст. ажыццёўлена неафіцыйнае выданне К. Польшчы і Рэчы Паспалітай — *Валюміна легум*.

***Аляксандр Марыскін.***




Медаль у гонар **Канстытуцыі 3 мая 1791**. Медальер Гольцгей.

**Канстытуцыя 3 мая 1791** (Ustawa rządowa), асноўны закон Рэчы Паспалітай, прыняты *Чатырохгадовым соймам 1788—91* у Варшаве. Аўтары — Г.*Калантай*, С.Малахоўскі, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, І.Патоцкі і інш. Абвясціла суверэннасць Рэчы Паспалітай як унітарнай дзяржавы, ліквідавала падзел на Карону і ВКЛ. Адначасова кароль захаваў тытул вял. князя літоўскага. У ВКЛ засталося асобнае судаводства, свой скарб, прадугледжвалася роўнае прадстаўніцтва ў сойме і яго камісіях. Месцам правядзення соймаў вызначана Варшава, але яны маглі адбывацца раз у 3 гады ў Гародні. Абвясціла нязменнасць *кардынальных правоў*, захавала карпаратыўнасць і адзінаўладдзе за шляхецкім саслоўем, шляхецкія правы і прэрагатывы абвяшчала непарушнымі. Грамадзянскія свабоды распаўсюджваліся на прывілеяваныя станы шляхты, духавенства, чыноўнікаў. Адначасова рабіліся ўступкі жыхарам гарадоў дзярж. юрысдыкцыі, у ліку якіх асабістая недатыкальнасць, права набыцця зямлі, шляхецтва, заняцця ніжэйшых адм.-судовых і царк. пасад. Абвешчана свабода веравызнанняў з захаваннем дзярж. статуса каталіцтва. Епіскапы пераведзены на дзярж. ўтрыманне. Дэкларавалася апека права і ўрада над феад.-залежнымі сялянамі. Заканадаўчая ўлада аддадзена 2-палатнаму сойму (Пасольская Ізба і Сенат), выканаўчая — каралю і радзе з 6 міністраў, падсправаздачных сойму. Міністраў назначаў кароль. Пасольская Ізба (палата дэпутатаў) складалася з 204 паслоў (з іх 24 прадстаўлялі гарады з дарадчым голасам), выбраных на 2 гады на мясц. сойміках. Выбарчы голас атрымалі асобы шляхецкага стану з 19 гадоў, якія мелі гадавы даход больш за 100 злотых і былі запісаны ў земскія кнігі. Сенат складаўся з 132 саноўнікаў, у т.л. караля, быў пазбаўлены права заканадаўчай ініцыятывы, але меў права адкладальнага вета. Ліквідавана права *ліберум вета*, усе пастановы сойма павінны былі прымацца большасцю галасоў, уведзена спадчыннасць трона. Выканаўчай адміністрацыяй на мясц. узроўні былі парадкавыя камісіі, якія выбіраліся мясц. соймікамі. Земскія і гродскія суды аб'ядноўваліся ў *зямянскія суды*. Пажыццёвасць пасад скасоўвалася, змянялася іх выбарнасць пры дзярж. утрыманні. Канстытуцыя абвяшчалася нязменнай на 25 гадоў. Пераглядзець яе мог толькі канстытуцыйны сойм. Скасавана ў 1793 у выніку *другога падзелу Рэчы Паспалітай*. Была першым



Прыняцце **Канстытуцыі 3 мая 1791**. Медзярыт І.Ф.Больта.

у Еўропе і другім у свеце (пасля Канстытуцыі ЗША) асн. законам, зафіксаваным пісьмова. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 30, 31.

*Літ.*: Leśnodorski B. Dzieło Sejmu Czteroletniego (1788—1792). Wrocław, 1951; Laszewski R. Sejm Polski w latach 1764—1793. Warszawa; Poznań, 1973; Саркисян О.С. Польская конституция 3 мая 1791 г. // Вести Ереванского ун-та. Обществ. науки. Ереван, 1989. № 1; Skowronek J. Wjelka chwila narodowych dziejów: Konstytucja 3 maja i reformu Sejmu Czteroletniego. Warszawa, 1991; Czaja A. Lata wielkich nadziej. Warszawa, 1992; Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

***Яўген Анішчанка.***




Канстытуцыя 3 мая 1791.

**Канстытуцыя 1793**, асноўны закон Рэчы Паспалітай, прыняты без абмеркавання 5 снеж. *Гарадзенскім соймам 1793*. Яе праект распрацаваны К.Рачынскім, Ф.Машчынскім, Л.Тышкевічам пад наглядам рас. пасла Я.Я.Сіверса. Паводле К. Рэч Паспалітая захоўвалася як унітарная дзяржава ў складзе правінцый Кароны і ВКЛ, падзялялася на ваяводствы, а тыя — на 3 паветы (землі) кожнае. Захоўваліся *кардынальныя правы*, гарантаваныя соймамі 1768, 1775 і *Канстытуцыяй 3 мая 1791*. Аднаўлялася выбарнасць караля. Вышэйшым заканадаўчым органам краіны абвешчаны аднапалатны сойм, які склікаўся раз у 4 гады на 8 тыдняў. Ад кожнага ваяводства ў сойм выбіраліся па 6 паслоў. Рашэнні ў сойме прымаліся большасцю галасоў, акрамя самых важных пытанняў заканадаўства, падаткаў, арміі, пры разглядзе якіх каралю давалася права вета. Выканаўчая ўлада перадавалася *Пастаяннай Радзе* з 24 чал. (у т.л. 11 ад ВКЛ), якая падзялялася на 6 дэпартаментаў. Рада павінна была рыхтаваць заканадаўчыя праекты, наглядаць за рэалізацыяй законаў, магла склікаць сойм нават без згоды караля. Улада ў паветах перададзена парадкавым камісіям. Членаў камісій выбіралі на мясц. сойміках з аселай шляхты. Немаёмная шляхта пазбаўлялася выбарчых правоў. Мяшчане атрымалі права набываць землі і шляхецкую годнасць, але не мелі прадстаўніцтва ў сойме. У якасці ўступкі рэформам Чатырохгадовага сойма захаваны *зямянскія суды* з выбарнымі пасадамі на дзярж. утрыманні. Вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй для судоў быў Трыбунал, асобна для цывільных і духоўных спраў. Фактычна К. не выконвалася, бо страціла сілу ў выніку *трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай*.

*Літ.*: Szujski J. Dzieje Polski podług ostatnich badań. T. 4. Lwów, 1866; Wąsicki J. Konfederacja Targowicka i ostatni sejm Rzeczypospolitej z 1793 roku. Poznań, 1952; Kądziela Ł. Opcja grodzieńska // Kwartalnik historyczny. 1991. № 1; Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992; Костомаров Н.И. Старый спор: Последние годы Речи Посполитой. М., 1994.

***Яўген Анішчанка.***

**Кантак** (Kantak) Каміль Юліуш (15.12.1881, в. Любань, Пазнанскае ваяв., Польшча — 1.12.1976), польскі гісторык царквы. Д-р габілітаваны (1923). Вучыўся ў семінарыях Познані і Гнезна, Фрыбурскім ун-це (Швейцарыя). З 1904 святар. Канцлер курыі (1913—17) і архіварыус (1917—19) Пазнанска-Гнезненскай архідыяцэзіі. Рэдактар газет «Kurier Gdański» («Гданьскі кур'ер»), «Dziennik Gdański» («Гданьскі дзённік»), супрацоўнік Т-ва навукі і мастацтва ў Гданьску. У 1926—39 выкладаў царк. гісторыю ў Пінскай семінарыі. З 1939 у лагерах НКУС у Казельску (Калужская вобл.) і Гразаўцы (Валагодская вобл.). З 1941 капелан Арміі Польскай ген. У.Андэрса. Пасля 2-й сусв. вайны жыў у Бейруце, выкладаў гісторыю ў Амерыканскім і Французскім ун-тах. Аўтар прац па гісторыі касцёла і манаскіх ордэнаў у Польшчы і ВКЛ.

*Тв.*: Dzieje Kośioła polskiego. T. 1—2. Warszawa, 1912—14; Najważniejsze rękopisy franciszkańskie bibliotek wileńskich // Ateneum Wileńskie. 1928. R. 5, z. 14; Bernardyni polscy T. 1—2. Lwów, 1933; Czy franciszkanie wileńscy byli rozsadnikami religijnej reformy niemieckiej w w. XVI? // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Franciszkanie polscy. T. 1—2. Kraków, 1937—38.

**канты** (ад лац. cantus песня), 1) тое, што і *псальмы*. 2) У рас. навуцы назва свецкіх сілабічных песень, што ўзніклі ў 1-й пал. 18 ст. пад польскім, бел. і укр. уплывамі (называць аналагічную бел. свецкую песню К. няправільна).

***Ігар Клімаў.***

**Кантэр** (Kanter) Ян Якуб (1738—86), друкар у Караляўцы. У 1770 выдаў вял. карту Рэчы Паспалітай (203 ? 174 см, 16 аркушаў 51,5 ? 44,5 см, маштаб каля 1:675 000). Тытульны аркуш у тэхніцы акваформэ выканаў мастак Д.Хадавецкі.

*Літ.*: Buczek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVII w. Warszawa, 1963; Kublin L. «Regni Poloniae...» Jakuba Kantera z 1770 r. Warszawa, 1980; Sirko M. Zarys historii kartografii. Lublin, 1999; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў. Мн., 2004.

***Леў Казлоў.***

**канун**, канон, свята цэхавых рамеснікаў у 15—18 ст. у гонар святога — патрона цэха. Называўся таксама братчына, склад, годзенне, купаўшчына. Вытокі свята ў першабытным кульце продкаў. Першыя звесткі пра К. адносяцца да 1530, калі віленскія кушняры «зволили восстановити себе братство и за свой власный поклад меда куповали и сычивали на врочистыя свята



ко дню св. Духа, Николе и ко Божему Нароженью... братством своим подле давнего звычаю... пивали». К. фіксуюцца амаль ва ўсіх гарадах Беларусі. У адрозненне ад Зах. Еўропы ў Беларусі агульнай сістэмы «спецыялізацыі» святых не існавала, таму за патрона цэха найчасцей бралі святога, у гонар якога фундавалі царкву ці касцёл. Але прасочваецца пэўная тэндэнцыя патранажу святых над рамеснікамі: св. Кузьма часцей выступаў апекуном кавалёў, св. Павел — сталяроў, св. Васіль — кухароў, св. Іаан Златавуст — бортнікаў, св. Іосіф — бондараў, св. Параскева — «жаночых» рамёстваў. К. ладзіліся і на вял. царк. святы: Вялікдзень, Сёмуху, Каляды. Арганізатарамі К. маглі выступаць канфесіянальныя брацтвы і інш. карпарацыі граждан. К. уключаў выраб («сычэнне») мёду і гарэлкі, збор страў, выраб свечак. Напярэдадні К. цэхавыя «малодшыя браты» абыходзілі дамы рамеснікаў, абвяшчалі пра свята і збіралі грошы на банкет, наймалі кухараў, музыкаў, служак; выраблялі грамніцы — вял. каляровыя свечкі. У канцы дня ў цэхавым будынку адбывалася вячэра. Раніцай цэх у поўным складзе з харугвамі, значкамі і грамніцамі ішоў у сваю царкву (касцёл) на богаслужэнне перад абразом патрона. Шэсце адбывалася на міжканфесіянальнай падставе. Напр., менскія краўцы ладзілі богаслужэнне ў францысканскім касцёле і уніяцкай царкве Св. Духа, полацкія ганчары — у касцёле і уніяцкай царкве. Унутры храма рамеснікі выстройваліся ў заведзеным парадку: наперадзе 2 цэхмістры «рускай» і «рымскай» веры (зрэдку і «нямецкай»), потым «старшыя» майстры (т.зв. «сталовыя» — рада пры цэхмістрах), майстры і падмайстры. Пасля набажэнства ў цэхавым будынку адбываўся банкет. У святы кут банкетнай залы выносілася цэхавая скрыня з прывілеямі, якую адчынялі 2 ключнікі (шафары), і прывілеі зачытваліся. Потым ішло частаванне, у час якога вырашаліся цэхавыя справы. Атрыманы пасля сычэння мёду воск ішоў на выраб свечак для царквы, рэшткі прадаваліся, а прыбытак ахвяраваўся храмам на «потребы и оправы и на слуги церковныя», а таксама на «милосердныя учинки до шпиталя и на ялмужну убогим людям». Дзярж. ўлада рэгламентавала правядзенне К. Прывілей 1608 Жыгімонта III патрабаваў ад рамеснікаў, «абы вели поштиво, не мовили миж собою збытных слов, не лягали на стол, не розливали братнего меду». Права цэхаў вырабляць на К. моцныя напоі выклікала процідзеянне прафесійных гандляроў гарэлкай, таму ў цэхавых прывілеях адзначалася: «в чом им арендары корчом перешкожати не мают». Святкаванне К. адыгрывала важную ролю ў карпаратыўнай пабудове феад. грамадства.

*Літ.*: Клименко Ф.В. Западнорусские цеха XVI—XVIII вв. Киев, 1914.

***Андрэй Катлярчук.***

**канфедэраты**, удзельнікі *канфедэрацыі*. У асноўным К. станавілася шляхта, зрэдку духавенства і мяшчане. Яны павінны былі прынесці прысягу і падпісаць акт, у якім вызначаліся мэты, задачы і ўмовы канфедэрацыі. Акты канфедэрацый заносіліся ў судовыя кнігі і абвяшчаліся публічна (у касцёлах, цэрквах і інш.).

***Аляксандр Марыскін.***

**канфедэрацкі суд**, суд у Рэчы Паспалітай у 17—18 ст., які ствараўся *канфедэрацыямі* замест дзяржаўных судоў як сродак у барацьбе з палітычнымі праціўнікамі. К.с. былі створаны *Таргавіцкай канфедэрацыяй*, якая сваім актам 27.4.1792 (апублікаваны 14.5.1792) загадала спыніць дзейнасць ранейшых судоў. У процівагу гэтаму Чатырохгадовы сойм 31.5.1792 пастанавіў, што на землях, не занятых войскамі інш. дзяржаў, працягваюць сваю дзейнасць дзярж. суды. На Беларусі К.с. дзейнічалі ў Браславе, Віцебску, Ваўкавыску, Лідзе, Менску, Оршы, Полацку, Рэчыцы, Слоніме, Слуцку і інш. Паводле акта 27.4.1792 К.с. павінны былі разглядаць справы аб крымінальных злачынствах супраць дзяржавы і дзеяннях асоб супраць канфедэрацыі; справы аб спадчыне, зямельных межах і даўгах гэтым судам не падлягалі. Універсалам ад 27.9.1792 Генеральная канфедэрацыя дала К.с. права разглядаць справы аб даўгах, зборы дзярж. чыншу, а таксама справы, якія раней падлягалі *камісіям парадкавым цывільна-вайсковым*. Суддзі (консулы) выбіраліся канфедэратамі, старшынёй суда быў маршалак канфедэрацыі ў адпаведным павеце. К.с. прымалі да разгляду справы ў тым выпадку, калі хоць бы адным з бакоў выступаў шляхціц. Працэдура работы суда была аналагічная працэдуры *земскага суда*. Прыгаворы (выракі) прымаліся тайным галасаваннем. Апеляцыі маглі падавацца ў суд Генеральнай канфедэрацыі. К.с. меў права ажыццяўляць прыгавор з дапамогай войска. Скасаваны разам з Генеральнай канфедэрацыяй Гарадзенскім соймам 15.9.1793.

*Літ.*: Sobczak J. Sąd konfederacji targowickiej województw wielkopolskich 1792—1793 r. // Studia i materiały do dziejów Wielkopolski i Pomorza. 1979. T. 13, z. 1; Abramski A. Sądownictwo podczas konfederacji w Polsce, 1672—1793. Katowice, 1986.

***Валерый Пазднякоў.***

**канфедэрацыя** (ад лац. confoederatio саюз, аб'яднанне), у Рэчы Паспалітай часовы саслоўны палітычны саюз для дасягнення пэўнай мэты. К. ўзніклі ў Польшчы ў 14 ст., у ВКЛ у 16 ст. Маглі быць адна- і шматсаслоўныя. У 16—18 ст. ствараліся, як правіла, аднасаслоўныя К. шляхты. З 16 ст. дзейнічалі К. пры каралях для падтрымкі іх рашэнняў і К., накіраваныя супраць каралёў (гл. ў арт. *Рокаш*). Звычайна К. ствралася ў адным ваяводстве, а калі ўсе ці большасць ваяводстваў далучаліся да яе, называлася генеральнай і магла выконваць функцыі вышэйшага органа дзярж. улады. Кіруючым органам К. была Вальная рада (Генеральнасць, Кола), якая адпавядала сойму і выбіралася канфедэрацкімі соймікамі. Узначальваў К. і Вальную раду маршалак. Рашэнні К. прымаліся большасцю галасоў. Нярэдка соймы 18 ст., каб пазбегнуць прынцыпу *ліберум вета*, утваралі К. і карысталіся іх умовамі (у т.л. *Чатырохгадовы сойм 1788—92*). Для забеспячэння ўнутр. парадку і барацьбы са сваімі ворагамі К. стваралі *каптуровыя суды* і *канфедэрацкія суды*. К. звычайна ўтвараліся ў часы бескаралеўя на канвакацыйным сойме, які аб'яўляў сябе К. каптуровай ці генеральнай. Асн. мэтай такіх К. было забеспячэнне ўнутр. бяспекі і захаванне цэласнасці дзяржавы. Генеральныя К. маглі ствараццa асобна ў Польшчы і ВКЛ. На Віленскім з'ездзе 1574 была створана К. ВКЛ для вызначэння кандыдата на каралеўскі прастол пасля ўцёкаў з Польшчы Генрыка Валезы. У яе стварэнні ўдзельнічалі шэраг вышэйшых службовых асоб ВКЛ і некалькі шляхціцаў. У 18 ст. на тэр. ВКЛ дзейні-



чалі *Віленская канфедэрацыя, Слуцкая канфедэрацыя, Радамская канфедэрацыя, Барская канфедэрацыя, Таргавіцкая канфедэрацыя*. Стварэнне К. забаранялася навечна соймам 1717 і Чатырохгадовым соймам, Канстытуцыяй 3 мая 1791, але гэта не было выканана. Існаванне К. было выклікана слабасцю дзярж. улады.

*Літ.*: Кутшеба С. Очерк истории общественно-государственного строя Польши: Пер. с пол. СПб., 1907; Бардах Ю., Леснодорский Б., Пиетрчак М. История государства и права Польши: Пер. с пол. М., 1980.

***Аляксандр Марыскін.***

**канцлер**, службовая асоба ў ВКЛ у 15—18 ст. Першы вядомы К. — літоўскі баярын Судзівой Валімунтавіч (1441; заняцце пасады К. Мікалаем Малдрыкам у 1429 ставіцца вучонымі пад сумненне). Пасада К. прайшла пэўную эвалюцыю. Спачатку К. быў службовай асобай велікакняжацкага двара, непасрэдным кіраўніком *канцылярыі Вялікага княства Літоўскага*, гал. пісарам, які адказваў за дакументальнае абслугоўванне дзейнасці гаспадара (пераважна ў знешнепалітычнай сферы) і агучванне яго рашэнняў. У далейшым К. стаў атрымліваць паўнамоцтвы міністра юстыцыі. З 1-й чвэрці 16 ст. вял. князь менавіта К. стаў даручаць кантроль за падрыхтоўкай збораў законаў (статутаў) і найб. важных прававых актаў. У гэтай сувязі сучасныя вучоныя слушна адзначаюць, што затрымка ў выданні 1-га Статута ВКЛ (падрыхтаваны ў 1522), яго дапрацоўка і ўвядзенне толькі ў 1529 былі звязаны з імкненнем новага кіраўніка канцылярыі А.М.Гаштольда (заняў пасаду К. ў 1522) змяніць прававую дактрыну свайго папярэдніка па пасадзе — М.М.Радзівіла. У абавязкі К. (а таксама яго намесніка — *падканцлера*) уваходзіла афіцыйнае прадстаўленне Статутаў і важных актаў і клопат аб іх выданні. Сродкам павышэння значэння і службовага статуса К. стала практыка ўключэння яго з сярэдзіны 15 ст. ў склад *Рады Вялікага княства Літоўскага* і асабліва спалучэнне з 2-й пал. 15 ст. пасады К. з вышэйшай свецкай пасадай — віленскага ваяводы. 1-м К. — віленскім ваяводам стаў прыблізна ў 1458 Міхайла Кезгайлавіч з Дзявілтова. Такі парадак з некаторымі выключэннямі захоўваўся да канца існавання ВКЛ. Бурлівае развіццё ў ВКЛ саслоўна-прадстаўнічай манархіі садзейнічала пераўтварэнню пасады К. ў пасаду дзярж. характару, часоваму (у 2-й пал. 16 ст.) павелічэнню ролі К. ў кіраванні дзяржавай (А.Б.Валовіч, Л.І.Сапега). Але тыя ж прычыны спынілі працэс далейшай эвалюцыі пасады. Да 1520-х г. адносяцца спробы ператварыць К. ў вышэйшага кіраўніка гаспадаркі ВКЛ. Вял. князь у некат. выпадках стаў даручаць К. ажыццяўленне кантролю за паступленнем пэўных відаў гаспадарскіх і дзярж. даходаў. Так, у канцы 1520-х г. у загадванне К. і віленскага ваяводы Гаштольда перайшлі адкупшчыкі мыт, саляных і васковых камор, а таксама ванчоснага. Але ўжо з 1531 даходы ад мытнікаў, васкаўнічых і салянічых даручалася прымаць земскаму падскарбію. Апошняму ў адсутнасць гаспадара было перададзена таксама і права суда над імі. Як кіраўнік канцылярыі К. захоўваў маястатную пячатку, у далейшым яе разнавіднасць — вял. маястатную пячатку ВКЛ. Адсюль неафіцыйная назва пасады К. — пячатар, якая ўзнікла ў 2-й пал. 16 ст. (яшчэ адным пячатарам быў падканцлер). У распараджэнні К. знаходзіўся штат канцылярыі. Праз К. вял. князь перадаваў усемагчымыя загады адносна працы канцылярыі: падрыхтоўкі і выдачы дакументаў, іх ануляванні і г.д. Згодна з прысягай, якую прыносіў К. пры заняцці пасады, ён абавязваўся не выдаваць дакументаў без волі, ведама і загаду вял. князя, акты, якія б маглі нанесці шкоду годнасці і аўтарытэту ВКЛ і парушалі правы дзяржавы. Ужо ў 1-й чвэрці 16 ст. К. дамогся значнага ўплыву на дзейнасць канцылярыі. Ёсць падставы меркаваць, што менавіта канцлер Радзівіл стаў ініцыятарам 1-й рэарганізацыі «рускай» канцылярыі (укамплектаванай пісарамі, што пісалі на старабел. мове) вясной—летам 1516 і ўвядзення пісарскай прысягі. Пры ім замацавалася практыка сістэматычнага замацавання выходных дакументаў пісарскім, а таксама велікакняжацкім і канцлерскім подпісамі. Імкненне К. павысіць свой уплыў на дзейнасць канцылярыі выяўлялася і ў падключэнні да працы ў гэтай установе ўласных пісараў (так, у канчатковым рэдагаванні Статута ВКЛ 1529 браў удзел асабісты пісар Гаштольда Б.Сямашка), а ў далейшым — у прасоўванні на пасаду пісараў (вял. пісараў) асоб з уласнага двара. За выкананне пэўных відаў працы К. атрымліваў шэраг даходаў, у т.л. за апячатванне дакументаў.

Канцлеры ВКЛ: Судзівой Валімунтавіч (1441), Міхайла Кезгайлавіч з Дзявілтова (1448—76), Алехна Судзімонтавіч з Хожава (1477—91), Мікалай Радзівілавіч (1492—1509/10), Мікалай Мікалаевіч Радзівіл (1510—21/22), Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд (1522—39), Ян Юр'евіч Глябовіч (1546—49), Мікалай Янавіч Радзівіл Чорны (1550—65), Мікалай Юр'евіч Радзівіл Руды (1566—79), Астафій Багданавіч Валовіч (1579—87), Леў Іванавіч Сапега (1589—1623), Альбрыхт Станіслаў Радзівіл (1623—56), Крыштоф Зыгмунт Пац (1658—84), Марцыян Аляксандр Агінскі (1684—90), Дамінік Мікалай Радзівіл (1690—97), Кароль Станіслаў Радзівіл (1698—99), Міхал Серваций Вішнявецкі (1720—35), Ян Фрыдэрык Сапега (1735—51), Міхал Фрыдэрык Чартарыйскі (1752—75), Аляксандр Міхал Сапега (1775—93), Іахім Ігнацы Юзаф Храптовіч (Літавор-Храптовіч; 1793—95). Спраўцам канцылярыі быў Іван Астаф'евіч Гарнастай (1539—46, 1549—50).

*Літ.:* Любавский М.К. Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586): Опыт исследования политического и общественного строя. Т. 1. СПб., 1901; Kosman M. Kancelaria wielkiego księcia Witolda // Studia zródłoznawcze. T. 14. 1969; Bardach J. O praktyce kancelarii litewskiej za Zygmunta I Starego // Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskieigo XIV—XVII wieku. Warszawa, 1970; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 11: Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego księstwa Litewskiego XIVXVIII wieku / Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba. Kórnik, 1994; Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka: Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. Poznań, 1995; Rachuba A. Kancelarie pieczętarzy Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1569—1765 // Lietuvos Metrika: 1991—1996 metų tyrinejimai. Vilnius, 1998; Korczak L. Litewska rada wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków, 1998; Груша А. Службовы склад і структура канцылярыі Вялікага Княства



Літоўскага 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. // METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Т. 1. Мн., 2001; Я г о ж. Канцылярыя ВКЛ 40-х гг. XV—першай паловы XVI стст. // Беларускі гістарычны часопіс. 2002. № 2—3.

***Аляксандр Груша.***

**канцылярыя Вялікага княства Літоўскага,** дзяржаўная ўстанова, якая дакументацыйна забяспечвала дзейнасць цэнтральных органаў улады і кіравання ВКЛ. Утварылася ў канцы 14 ст. як асабістая канцылярыя вял. князя Вітаўта, знаходзілася ў Вільні. Прыкладна з сярэдзіны 15 ст. ў сувязі з распаўсюджваннем пісьмовага дакумента ва ўнутранай палітыцы краіны набыла характар дзяржаўнай установы. На чале канцылярыі стаяў *канцлер*. У 1566 уведзена пасада *падканцлера*, які замяшчаў канцлера ў час адсутнасці апошняга ў канцылярыі. Канцлер распараджаўся вял. дзярж. пячаткай, падканцлер — малой, таму абедзве гэтыя асобы атрымалі абагульняльную назву «пячатары». У канцылярыі працаваў вял. штат іншых службовых асоб — *рэгенты, сакратары, пісары, дзякі*. Сярод іх існавала пэўная спецыялізацыя. Асобную групу складалі пісары арабскія і татарскія, якіх выкарыстоўвалі ў сувязях з мусульманскімі краінамі, у першую чаргу з Крымскім ханствам і Турцыяй. Да працы ў канцылярыі дастаткова часта прыцягваліся асабістыя слугі буйных радных паноў. Паводле меркавання гісторыка А.І.Грушы, ужо ў пач.16 ст. (да сярэдзіны 1540-х г.) існаваў падзел канцылярыі на 2 аддзелы, сфарміраваныя паводле моўнай прыкметы — рускі і лацінскі («руская канцылярыя» і «лацінская канцылярыя»). Кожны з аддзелаў меў свой склад службоўцаў — адпаведна рускіх і лацінскіх пісараў і сакратароў. Пасля ўвядзення пасады падканцлера канцылярыя падзялілася на галоўную (большую) і меншую. Гэты падзел не быў замацаваны арганізацыйна і выяўляўся ў размеркаванні канцылярскіх кніг паміж канцлерам і падканцлерам у час іх вядзення і наступнага захоўвання. Па даручэнні пячатара дакумент рыхтаваўся любым з пісараў, які быў у той час пры канцылярыі і замацоўваўся пячаткай адпаведна канцлера ці падканцлера. Копія дакумента запісвалася ў тую кнігу, якая вялася пры адпаведным пячатары. Канцлер і падканцлер былі хавальнікамі не толькі тых кніг, што вяліся пры іх, але і пры іх папярэдніках. Канцылярыя ВКЛ мела свецкі характар, толькі некаторыя выхадцы з Польшчы, якія працавалі ў канцылярыі ў 15—16 ст. лацінскімі сакратарамі і пісарамі, адначасова займалі пэўныя царк.пасады.

Асн. задачай дзярж. канцылярыі было дакументаванне рашэнняў вял. князя і рады ВКЛ па кіраванні дзяржавай, а таксама сойма, які не меў свайго сакратарыята. Фармальна ў функцыі канцылярыі ўваходзіла падрыхтоўка наогул усіх дакументаў, якія ствараліся ў цэнтр. апараце кіравання ВКЛ, у т.л. звязаных з дзейнасцю вышэйшых службовых асоб краіны. Вял. аб'ём працы канцылярыі быў звязаны са зваротамі прыватных асоб: тут рыхтаваліся ўсе гаспадарскія даніны, пацвярджэнні, судовыя рашэнні, якія выдаваліся на рукі зацікаўленым асобам. Акрамя таго, канцылярыя выконвала функцыі натарыяту: сведчыла прыватныя здзелкі з маёмасцю, заносіла копіі адпаведных дакументаў у спец. капійныя кнігі («кнігі канцылярэйскія»), выдавала з іх выпісы. За падрыхтоўку і выдачу дакументаў, капіраванне іх у кнігі з выдачай адпаведных выпісаў канцылярыя брала пошліну. Значны аб'ём у працы канцылярыі займала вядзенне судовага справаводства. У канцылярыі паступалі скаргі на супрацьпраўныя дзеянні, праз яе ішла перапіска з бакамі, якія вялі судовую спрэчку. Па даручэнні гаспадара службовыя асобы канцылярыі прымалі ўдзел у судовых пасяджэннях: канцлер і падканцлер — у якасці суддзяў, сакратары і пісары — судовых засядацеляў. Пісары маглі ўключацца ў склад камісій, якія праводзілі расследаванне судовых спраў на месцы.

Акрамя справаводчых абавязкаў работнікам дзярж. канцылярыі даручалася выкананне іншых спраў, якія не былі звязаны з працай па дакументацыйным забеспячэнні. З канца 15 ст. ў канцылярыі выявіліся рысы пасольскай службы, яна выконвала функцыі дзярж. пошты. Служачыя канцылярыі мелі шмат разавых даручэнняў, былі *рэвізорамі, мернікамі, камісарамі* і інш. Паслугамі канцылярыі карысталіся амаль усе службовыя асобы цэнтр. апарату кіравання ВКЛ. Пры адсутнасці спец. цэнтр. устаноў па кіраванні дзяржавай канцылярыя была адзіным для ўсіх сфер дзярж. палітыкі цэнтр. выканаўчым органам, але толькі тэхнічным, бо ён не прымаў самастойных кіраўніцкіх рашэнняў. Служачыя канцылярыі належалі да найбольш адукаваных людзей у краіне, складалі яго інтэлектуальную эліту. Яны рыхтавалі і рэдагавалі статуты, пастановы соймаў і рады ВКЛ, інш. заканадаўчыя акты. Канцлер і падканцлер займалі вядучае становішча сярод радных паноў, актыўна ўплывалі на ўнутраную і знешнюю палітыку краіны. Канцылярыя ВКЛ працавала да канца існавання Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: П т а ш и ц к и й С.Л. Описание книг и актов Литовской метрики. СПб., 1887; Р ы б а к о ў А. «...смотрел тое справы подканцлерий наш» // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5; Я г о ж. Галоўная і меншая канцылярыі Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // Бел. гіст. часопіс. 1998. № 3; Г р у ш а А. Службовы склад і структура канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. // METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2001. Т. 1; Я г о ж. Канцылярыя ВКЛ 40-х гг. XV—першай паловы XVI стст. // Бел. гіст. часопіс. 2002. № 2—3.

***Андрэй Рыбакоў.***

**канцыянал** (позналац. cantional ад лац. cantio спевы, песня), зборнікі рэлігійных і свецкіх адна- і шматгалосых песнапенняў. Сярод жанраў у складзе К.: літургічныя песнапенні і малітвы, пратэстанцкія харалы, *псальмы* і *канты*, гейналы і інш. Вядомы з 1-й пал. 15 ст. (Чэхія, Германія), асабліва пашыраны ў час Рэфармацыі. У ВКЛ у 16 ст. друкаваліся мясц. пратэстанцкія, а таксама чэш., ням., польскія К. Першы ўзор нотадрукавання ў ВКЛ і адзін з самых ранніх ва Усх. Еўропе — берасцейскі зб. «Песні хвал боскіх», складзены і выдадзены Я.Зарэмбам (1558). Ён змяшчае каля 100 адна- і чатырохгалосых псальмаў і кантаў на польскай і лац. мовах, запісаных мензуральнай натацыяй на 5-лінейным нотным стане (захаваліся ў фотакопіі 10 мелодый і заканчэнне; 38 мелодый з яго перадрукаваны ў канцыянале Я.Секлюцыяна, 1559). Аўтары шэрагу муз. узораў — *Вацлаў з Шамотул* і Ц.*Базылік*. У 1562 у Нясвіжы М.Кавячынскі выдаў «Катэхізіс», у адну з частак якога ўключыў К., дзе змешчаны 40 псальмаў, 110 песень

і свецкіх кантаў з нотамі. У канцы 16— пач. 17 ст. нотныя К. выдаваліся ў Любчы, у т.л. зборнікаднагалосых песнапенняў 1620 (у аснове многіх псальмаў і кантаў мелодыі французскіх свецкіх, нямецкіх нар. песень, гусіцкіх, гугеноцкіх, лютэранскіх, кальвіністкіх гімнаў і харалаў, касцельных песень, лац. секвенцый, гімнаў і антыфонаў, зах.-еўрапейскіх і слав. песень і танцаў, усх.-слав. лірычных нар. песень).

*Літ.*: Kot S. Kancjonał brzeski Iana Zaręby z 1558 r. // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1937—39. R. 9—10; Костюковец Л.Ф. Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975.

***Ларыса Касцюкавец.***

**канчар**, від халоднай клінковай зброі, эвалюцыйная форма мяча, якая характарызуецца вельмі доўгім, выключна колючым клінком 3- ці 4-граннага сячэння, прыстасаваным для прабівання даспехаў. Мог выкарыстоўвацца замест кап'я. Па прычыне значных памераў К. у похвах мацаваўся да сядла, пад левым ці правым каленам. Рукаяць К. мела мячовую, шпажную ці шабельную форму. Парадныя К. маглі афармляцца ў арыентальным стылі. У пісьмовых крыніцах ВКЛ К. вядомы з 2-й пал. 16 ст. Першапачаткова тут К. не заўсёды дакладна размяжоўваліся ад мячоў і былі слаба распаўсюджаны, асабліва ў феад. апалчэнні. У 1570—80-х г. К. выступаюць ужо як звыклы элемент феад. арсеналаў. У дакументах адзначаны і багата аздобленыя К. Выйшлі з ужытку ў 18 ст.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. 2 wyd. Warszawa, 1989; Głosek M. Broń biała długa // Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej, 1350—1450. Łódź, 1990; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV— канца XVI ст. Мн., 2002. С. 127—129.

***Юрась Бохан.***

**Канчынская** (Konczyńska) Ванда Альдона (22.11.1876, г. Кракаў — 23.7. 1939), польскі гісторык, педагог. Д-р філасофіі (1936). Скончыла настаўніцкую семінарыю ў Кракаве (1896), вучылася ў Кракаўскім ун-це (1898—1902). У 1896—1914 і 1923—30 выкладала ў сярэдніх навуч. установах у Кракаве, у 1915—18 — у Саратаве. У 1919—23 працавала ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве. Працы па гісторыі Ягелонскай б-кі, дзейнасці патрыётаў ВКЛ на чале з Т.Рэйтанам на сойме 1773—75.



**Канчар** Яна III Сабескага. 4-я чвэрць 17 ст. У 1740—1813 зберагаўся ў Нясвіжскім замку Радзівілаў.

*Тв.*: Przewodnik po Bibliotece Jagiellońskiej. Kraków, 1923; Zarys historii Biblioteki Jagiellońskiej. Kraków, 1923; Tadeusz Rejnan i jego «Manifest» z grudnia 1773 // Kwartalnik historyczny. 1933. Z. 4; Rejtan, Korsak i Bohuszewicz na sejmie 1773 roku: Materjały do monografji posła nowogródzkiego. Wilno, 1935.

**канюшы**, урад (пасада) у ВКЛ. Вядомы з 15 ст. Павінен быў наглядаць за велікакняжацкімі табунамі і стайнямі, але фактычна гэта выконваў *падканюшы*. У 16 ст. К. пры вял. князю называўся К. дворны, у паветах — К. земскі. З 17 ст. пасада вялікага К. (канюшага ВКЛ) — дыгнітарская.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**капалін**, тып шлема, пашыраны ў Еўропе ў раннім сярэдневякоўі, а затым з 12 ст. Некаторыя формы К. бытавалі таксама на Усходзе. Атрымаў назву з-за падабенства да металічнага капелюша. Пераважна былі адкрытыя з больш ці менш шырокімі палямі, часам апушчанымі ўніз. У шэрагу выпадкаў палі апускаліся так нізка, што засланялі верхнюю частку твару; у такіх выпадках яны праразаліся зрокавай шчылінай — «візурай», што ператварала К. у напаўзакрыты шлем, а пры далучэнні накладнога падбародніка — «барта» — у цалкам закрыты. Звон К. мог мець сферычную, цыліндрычна-канічную ці сфераканічную форму са шпілем. К. шырока ўжываліся ў ВКЛ з канца 14 ст., у 1-й пал. 16 ст. былі адным з найбольш пашыраных тыпаў шлемаў. У далейшым папулярнасць К. знізілася. У ВКЛ К. маглі называцца некаторыя варыянты саладаў. Эвалюцыйнай формай К. з'яўляюцца марыёны, папулярныя ў 16—17 ст.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. 2 wyd. Warszawa, 1989; Głosek M. Broń biała długa // Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej, 1350—1450. Łódź, 1990; Бехайм В. Энциклопедия оружия. СПб., 1995; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 33—34.

***Юрась Бохан.***

**кап'ё**, 1) халодная колючая дрэўкавая зброя. Складалася з дрэўка і наканечніка (грота), у якім вылучаюцца баявая частка (пяро) і ўтулка (чаранок), пры дапамозе якой ён мацаваўся да дрэўка. Па форме пяра наканечнікі К. падзяляюцца на ланцэта-, ромба-, лістападобныя, падоўжана-трохвугольныя, 2-шыпныя, вузкія гранёныя (пашырыліся з 13—14 ст. з распаўсюджаннем пласцiністых даспехаў). У познім сярэдневякоўі памеры і канфігурацыя наканечніка, даўжыня і таўшчыня дрэўка абумовілі бытаванне розных відаў К. «Дрэва» выкарыстоўвалася ў цяжкай кавалерыі для таранната ўдару, мела тоўстае доўгае (да 5 м) дрэўка са спец. дзяржаннем-перахопам і наканечнікам са значнай утулкай і невял. масіўным гранёным пяром, прыдатнае для прабівання даспехаў. Пяхотная піка (спіса) мела гранёны наканечнік і дрэўка даўжынёй 2—5 м. Рагаціна (влочня, дарда, шэфелін) ужывалася ў кавалерыі і пяхоце, мела пляскатае пяро і дрэўка даўжынёй да 2 м; падзяляліся на баявыя («зашчытныя») і паляўнічыя («лоўчыя»). Ошчап (суліца) — аблегчаны варыянт рагаціны з танейшым дрэўкам і меншым наканечнікам, былі прыстасаваныя як для рукапашнага бою, так і для кідання. У 18 ст. К. страціла былое значэнне, хоць у выглядзе лёгкай пікі (дзіды, лянцы) заставалася на ўзбраенні асобных відаў кавалерыі да пач. 20 ст.



2) Дробная арганізацыйная адзінка ў сярэдневяковых рыцарскіх арміях. Складалася з аднаго цяжкаўзброенага рыцара, забяспечанага дрэўкавай зброяй і спецыялізаванага выключна ў рукапашным баі, і некалькіх лягчэйшых стральцоў, да якіх мог дадавацца збраяносец рыцара, што вёў яго запаснога каня. Колькасны склад К. залежаў ад фінансавых магчымасцяў феадалаў. Сустракаліся К. толькі з самога капійніка ці нават з адных стральцоў. У ВКЛ К. фіксуюцца з канца 14 ст., з канца 15 ст. фігуруюць у крыніцах як початы.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. 2 wyd. Warszawa, 1989; Nadolski A. Grunwald: Problemy wybrane. Olsztyn, 1990; Polska technika wojskowa do 1500 roku. Warszawa, 1994; Бохан Ю. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002.

***Юрась Бохан.***

**капец**, межавы знак у ВКЛ у 15—18 ст. у выглядзе землянога насыпу з дамешкамі камянёў, бітай keramікі, шкла і інш.

**Капіевіч** Багуслаў (1678, мяст. Койданава—2.6.1746), дзеяч кальвіністкай царквы ВКЛ, суперінтэндант (кальвіністкі біскуп) Беларусі ў 1729—30 і 1743—46. З дробнай пратэстанцкай шляхты Слуцкага княства, пляменнік І.Ф.*Капіевіча*. Вучыўся ў школе пры Койданаўскім зборы, у Слуцкай гімназіі, ун-тах Зах. Еўропы (Германія, Вялікабрытанія). Магчыма, скончыў Эдынбургскі ун-т у Шатландыі, дзе існавалі стыпендыі для студэнтаў з Літвы і Беларусі. Валодаў бел., польскай, нямецкай, англійскай, лац. мовамі. З 1708 прарэктар Слуцкай гімназіі, з 1718 рэвізор гал. архіва «Ядноты Літоўскай» (кальвіністкай царквы ВКЛ). У 1717 на сінодзе «Ядноты Літоўскай» у Беліцы прызначаны паўнамоцным пасланнікам пратэстантаў ВКЛ у Зах. Еўропу. Мэтай падарожжа К. ў Германію і Вялікабрытанію быў збор сродкаў і пошук міжнар. паліт. падтрымкі для пратэстантаў ВКЛ. Наведаў Германію, Шатландыю (там сабраў 4030 фунтаў). У 1720 разам з шатландскімі купцамі Слуцка і Кейдан выехаў у Лондан, дзе спаткаўся з каралём Георгам І. У 1721—28 жыў у Дубліне, дзе вучыўся ў дактарантуры мясц. ун-та. У 1728 вярнуўся на Бацькаўшчыну са значнай грашовай дапамогай (6 тыс. фунтаў). У выніку паездак К. пратэстанты Беларусі атрымалі 15 сталых стыпендый ва ун-тах Ірландыі, Шатландыі і Германіі на падрыхтоўку да пасады пастара. За значныя дасягненні К. у 1729 прызначаны суперінтэндантам беларускім з сядзібай у Койданаве. У 1729—30 напісаў 2 мемарыялы з аналізам становішча пратэстантаў ВКЛ і праграмай выйсця з крызісу. Прапанаваў кіраўніцтву адмовіцца ад стаўкі на замежную дапамогу і шукаць унутраныя сродкі, заахвочваць ідэямі рэфармацыі гараджан і не замыкацца ў шляхецкім стане. Сінод «Ядноты Літоўскай» адмоўна паставіўся да праграмы К. Ён быў зняты з пасады суперінтэнданта і пераведзены ў в. Гружы на мяжы з Курляндыяй. Зноў суперінтэндант Беларусі з 1743. Ставіў за мэту адчыніць у Койданаве 3-ю пратэстанцкую гімназію ў ВКЛ. Зрабіў з Койданаўскай зборавай школы першакласнае вучылішча, якое канкурыравала са Слуцкай гімназіяй.

*Літ*: Hans N. Polish Protestants and Their Connections with England and Holland in the 17th and 18th Centuries // The Slavonic and East European Review. 1958. № 37; Kriegseisen W. Ewangelicy polscy i litewscy w epoce saskiej. Warszawa, 1996; Яго ж. Podróże i projekty pastora Bogusława Jelitko Kopiewicza // Prace ofiarowane Prof Marii Boguckiej. Warszawa, 1997; Катлярчук А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў. Мн., 2002.

***Андрэй Катлярчук.***

**Капіевіч** (Капіеўскі) Ілья Фёдаравіч (1651, Менскае ваяв.—23.9.1714), беларускі асветнік, перакладчык, кнігавыдавец. Вучыўся ў Слуцку. У 9-гадовым узросце вывезены ў Цвярскі край, адкуль уцёк у Маскву. Праз 6 гадоў разам з мсціслаўскім ваяводам Цеханавецкім вярнуўся на радзіму. Але яго родавы маёнтак трапіў ва ўласнасць каталіцкага касцёла, а сам ён абвінавачаны ў здрадзе каралю, таму вымушаны быў эмігрыраваць на Захад. З сярэдзіны 1660-х г. жыў у Галандыі. У 1697—98 пазнаёміўся там з царом Пятром І, стаў прыхільнікам яго рэформ. Прапагандаваў свецкія навукі, садзейнічаў развіццю асветы і пашырэнню навук. ведаў у Расіі. У 1698—1706 пераклаў на рус. мову, склаў і выдаў каля 20 кніг: першыя падручнікі, вучэбныя дапаможнікі па гісторыі, арыфметыцы, вайсковай і марской справе, лацінскай і рус. граматыках, рус.-лацінска-нямецкі, рус.-лацінска-галандскі і інш. слоўнікі, першую зорную карту на рус. мове. Кнігі выдаваў у розных друкарнях, у т.л. уласных (Амстэрдам і Капенгаген). У 1701 у Берліне, у 1704 у Капенгагене намагаўся наладзіць выпуск кніг для Расіі. Перапісваўся з Г.Лейбніцам (перапіска зберагаецца ў АН Германіі). У 1707 прыняў прысягу на вернасць Расіі, стаў перакладчыкам Пасольскага прыказа. У 1708 у Варшаве працаваў пад кіраўніцтвам Я.Бруса, потым служыў у Маскве.

*Літ.*: Быкова Т.А. Книгоиздательская деятельность Ильи Копиевского и Яна Тесинга // Быкова Т.А., Гуревич М.М. Описание изданий, напечатанных кириллицей, 1689—январь 1725 г. М.; Л., 1958; Nowak Z. Eliasz Kopijewicz, polski autor, tłumacz, wydawca i drukarz świeckich książek dla Rosji w epoce wczesnego Oświecenia // Libri Gedanienses: Rocznik Biblioteki Ggańskiej PAN. 1968—1969. T. 2—3, 1970. T. 4; Мароз Д. Прымножыў славу суседа: Ільля Капіевіч — наватар кнігадрукавання ў Расіі // Мастацтва. 1994. № 4; Прыбытка Г. «На всемирную пользу...»: Жыццё і лёс Ільі Капіевіча // Беларуская мінуўшчына. 1994. № 3; Лабынцаў Ю. Што зрабіў беларус Ілья Капіевіч для маладой Расіі // Голас Радзімы. 1994. 13 студз.

***Юрый Лабанцаў.***

**капійнік**, воін, асноўным відам наступальнага ўзбраення ў якога была дрэўкавая зброя. Адзін з асн. відаў кавалерыі ВКЛ. Размяшчаліся наперадзе шыхта і служылі для праломлівання шыхтоў непрыяцеля. Таму, як правіла, забяспечваліся найб. надзейным засцерагальным узбраеннем, з 2-й пал. 14 ст. — пласцінавым даспехам («зброяй бляхавай»). Тыповым аксесуарам цяжкіх К. да пач. 16 ст. стаў поўны, ці капійнічы, даспех. Практыкавалася таксама накрыццё даспехам баявых коней. Каб вытрымаць цяжкога рыцара ў поўным узбраенні і павялічыць ударны эфект патрабаваліся спец. капійнічыя коні — рослыя, масіўныя і дужыя. Для забеспячэння ўстойлівай пасадкі на кані служылі адмысловыя сёдлы з высокімі лукамі, у якіх вершнік сядзеў з выпрастанымі нагамі. К. выкарыстоўвалі доўгія (да 4 м) і тоўстыя коп'і («дрэвы»), а таксама клінковую зброю, сякеры і інш. К. з'яўляўся асновай дробнай арганізацыйна-тактычнай адзінкі — кап'я, куды ўваходзіла такса-



ма некалькі лягчэйшых стральцоў. Апроч цяжкіх выкарыстоўваліся і аблегчаныя варыянты К., у т.л. *гусары*, якія на працягу 16 ст. сталі асн. відам капійнічай кавалерыі. З канца 15 ст. ў складзе пяхотных наёмных рот у ВКЛ з'явіліся пешыя К. Яны выкарыстоўвалі капійнічыя даспехі і дрэўкавую зброю розных тыпаў — пікі, ошчапы, рагаціны, алебарды і інш.

*Літ.*: Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej, 1350—1450. Łódź, 1990; N a d o l s k i A. Grunwald: Problemy wybrane. Olsztyn, 1990; Polska technika wojskowa do 1500 roku. Warszawa, 1994; Б о х а н Ю. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002.

***Юрась Бохан.***

**капітул**, к а п і т у л а (познალац. capitulum), 1) кафедральны К. — рада пры біскупе па кіраванні епархіяй і кафедральным касцёлам. Быў калегіяльным органам, які складаўся з прэлатаў і канонікаў. Без згоды К. біскуп не мог ажыццяўляць некаторыя дзеянні, што было зацверджана ў царк. праве. Ажыццяўляў кіраванне дыяцэзіяй пасля смерці біскупа (выбіраў генеральнага вікарыя), пакуль не быў прызначаны новы. Члены К. праводзілі літургію ў кафедральным касцёле. Колькасны склад К. адрозніваўся ў розных дыяцэзіях. У Польшчы аформіўся як царкоўны інстытут у 13 ст. На ўзор польскіх ствараліся К. ў ВКЛ. З іх найб. разгалінаваным быў К. Віленскага біскупства. Утвораны разам з дыяцэзіяй 13.3.1388. Першапачаткова складаўся з 2 прэлатаў — прэпазіта (пробашч, прыходскі святар) і дэкана (меў права прызначаць святароў у кафедральны касцёл) і 10 канонікаў. Пасля ўведзены новыя пасады прэлатаў: у канцы 14 ст. — кусташ (хавальнік архіва), у 1435 — архідыякан (інспектаваў парафіі), у 1523 — схаластык (кіраўнік школы) і кантар (літургічны спявак, кіраўнік хору). Устанавілася іерархія прэлатаў (ад вышэйшага): прэпазіт, дэкан, архідыякан, кусташ, схаластык, кантар. Колькасць канонікаў да пач. 16 ст. дасягнула 12. Канцлер (кіраўнік канцылярыі) біскупства лічыўся 13-м пазаштатным канонікам без права пераходу на прэлатуру, з 1742 ён член К. Прэлаты і канонікі атрымлівалі даходы з пэўнай долі царк. зямельных уладанняў. Члены К. мелі намеснікаў — кафедральных вікарыяў. З канца 14 ст. К. мела права суда ў справах, звязаных з касцельнай маёмасцю, пасля паўнамоцтвы пашыраны. Пры К. існаваў пісар (натарыус) для вядзення справаводства. Пракуратар К. (ім звычайна быў адзін з канонікаў) ведаў нерухомай і рухомай маёмасцю К. Ва уніяцкай царкве таксама існавалі К. (крыласы) пры епіскапах, у склад якіх уваходзілі архіпрэсвітэр, архідыякан, скевафілакс, схалархх, хартафілакс. 2) Калегіяцкі К. — калегія святароў (канонікаў) пры найб. значных некафедральных касцёлах (калегіятах). У 1772 на тэр. Віленскага біскупства існавала 11 такіх К. 3) Ордэнскі К. — калегіяльны орган улады ў каталіцкіх манаскіх ордэнах.

*Літ.*: Z a c h o r o w s k i S. Rozwój i ustrój kapituł polskich w wiekach średnich. Kraków, 1912; Л а в р и н о в и ч А. Кафедральная капитула виленской епархии в 1388—1796 гг. // Восточная Европа: концерт культур. СПб., 2004.

***Валерый Пазднякоў.***

**капліца** (ад лац. capella), невялікае культавае збудаванне ў каталіцкай царкве, звычайна з алтаром. Можа стаяць асобна ці быць далучана да інш. будынка, або асобнае памяшканне (араторыум) у будынку. Прызначалася для літургічнай і прыватнай малітвы, выканання некат. літургічных функцый для невял. груп вернікаў. Вылучаюць К. касцельныя, кляштарныя, могілкавыя, пахавальныя (маўзалеі), кальварыйскія, замкавыя, палацавыя, шпітальныя, школьныя і інш. Найчасцей К. мелі 1 памяшканне з алтаром насупраць увахода і невял. сенцамі. Вял. К. маглі мець 2 паверхі, складаную форму плана. У раманскай архітэктуры пашыраны круглыя К.-ратонды. Для архітэктуры Рэнесансу і барока характэрны асобныя ці прыбудаваныя да касцёлаў К.-маўзалеі з купалам (Жыгімонтава К. на Вавелі ў Кракаве, К. святога Казіміра ў Віленскім кафедральным касцёле). У эпоху барока пашырыўся тып касцёла з некалькімі К., што мелі перпендыкулярныя да цэнтр. нефа восі і былі злучаны паміж сабой пераходамі (касцёл Божага Цела ў Нясвіжы). Абрысы замкавых і палацавых К. вызначаліся агульнай архітэктурай комплексу (К. ў Нясвіжскім замку Радзівілаў, Новым замку ў Гародні). Пахавальныя К. маглі мець склеп (крыпту) для труны. У дачыненні да уніяцкіх невял. культавых збудаванняў тэрмін «К.» пачаў выкарыстоўвацца з 18 ст., у інш. хрысціянскіх канфесіях ВКЛ не ўжываўся. Асобную групу складалі прыдарожныя каплічкі — невял. культавыя збудаванні, узведзеныя найчасцей як вота, падзяка або з абрадавымі мэтамі. Уяўляюць сабой асобны мураваны ці драўляны домік, вежачку з нішамі або ўпрыгожаную скрынку, падвешаную на дрэве; звычайна маюць скульптуры і разное афармленне.

*Літ.*: Р ю м и н В. Статуи римско-католических святых, каплицы и тому подобные памятники в Западной России // Вестник Западной России. 1868. Кн. 8, т. 3; К в и т н и ц к а я Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1980. Вып. 28; J a n k e v i č i e n e A. Lietuvos medinių koplyčių architektūa // Menotyra. 1998. № 2; С е р г а ч е в С. Каплица — тип культового сооружения Беларуси // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2000. Вып. 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**каптуровы суд**, часовы надзвычайны суд у Рэчы Паспалітай для разгляду тэрміновых спраў у часы бескаралеўя. Са смерцю манарха звычайныя суды, якія ажыццяўлялі правасуддзе імем караля, спынялі сваю работу (акрамя гродскіх). Упершыню К.с. створаны канфедэрацыяй шляхты пасля смерці Жыгімонта Аўгуста ў 1572. Стафан Баторый прызнаў К.с. і зацвердзіў іх пастановы (выракі). Пасля яго смерці ў 1586 малапольская шляхта выбрала каптуровых суддзяў у асобе ваявод. Іх зацвердзіў Варшаўскі канвакацыйны сойм 1587, які 29 студз. дазволіў выбраць К.с., не вызначыўшы колькасці суддзяў, ва ўсіх ваяводствах, у т.л. ў ВКЛ. У часы наступных бескаралеўяў К.с. выбіраліся на перадканвакацыйных сойміках шляхтай, якая аб'ядноўвалася ў канфедэрацыі. У склад суда ўваходзілі ваявода або павятовы стараста ці іх намеснікі, суддзя і пісар гродскага суда, падкаморы, суддзя, падсудак, пісар земскага суда і інш. Суд лічыўся правамоцным, калі прысутнічала не менш як 5 асоб з яго складу. Пасяджэнні павінны былі адбывацца раз у 6 тыдняў па 3 тыдні кожнае, што не заўсёды вытрымлівалася. Разглядаліся справы аб парушэнні грамадскага спакою, крымінальныя справы аб забойствах, рабаваннях, падпалах, нападах на маёнткі, фальсіфікацыі дакументаў на маёмасць (у дачыненні да шляхты, астатнія справы разглядаў гродскі суд),

а таксама цывільныя справы шляхты і манастыроў. Пастановы К.с. прымаліся большасцю галасоў, захоўвалі сваю моц і пасля спынення дзейнасці К.с.; незакончаныя справы передаваліся ў звычайныя суды. Сойм 1768 скасаваў практыку ўтварэння К.с.

***Валерый Пазднякоў.***

**капуцыны**, манахі каталіцкага жабрацкага манаскага ордэна (Ордэн меншых братоў капуцынаў, лац. Ordo Fratrum Minorum Capuccinorum, OFMCap). Заснаваны ў 1525 францысканцам Матэо Серафіні з Баскіо, які шляхам рэфармавання імкнуўся наблізіць ордэн *францысканцаў* да першапачатковага аскетызму. Прыдумаў габіт адметнага крою бурага колеру з апушчаным капюшонам (італьян. cappucio, адсюль і назва). У 1526 ордэн зацверджаны папам Кліментам VII, у 1529 прыняты статут. У 1627 К. з'явіліся ў Польшчы. У 1754 створана Польская правінцыя ордэна пад патранатам св. Войцеха і Станіслава. У ВКЛ першы К. (Валерыян Магні) прыбыў у 1636 у свіце Уладзіслава IV. Тут кляштары К. узніклі ў Любяшове (1756, фундатар — Ян Антоній Чарнецкі) і Юравічах (у 1781 К. занялі мясц. касцёл і калегіум езуітаў, але не здолелі працягнуць іх працу і ў 1788 з'ехалі). У 1760 харужы вількамірскі Ян Зыгмунт Даўнаровіч вылучыў пляц пад будоўлю кляштара К. у Вільні, але з-за варожага стаўлення да іх з боку інш. ордэнаў фундацыя не адбылася. Праводзілі місіянерскую дзейнасць сярод іншаверцаў. Існуе жаночая галіна ордэна.

*Літ.*: Obertyński Z. Litewskie plany polskich kapucynów // Ateneum Wileńskie. 1939. R. 14, z. 1; Dydycz A.P. Kapucyni na Litwie: Dzieje zakonu braci mniejszych kapucynów na Litwie (1756—1993). Rzym, 1994.

**капшчына**, капшчызна, кап, дзяржаўны падатак у ВКЛ у 15—16 ст. за трыманне карчмы і продаж у ёй спіртных напіткаў (гарэлкі, піва, мёду; існавалі адпаведныя віды К.). Памер вызначаўся вял. князем і вагаўся ад 0,5 капы (30) грошаў да 2,5 капы (150) грошаў. У 16 ст. К. ад піва і мёду складала 1 капу (60) грошаў, К. ад гарэлкі — 0,5 капы (30) грошаў (гэтыя памеры таксама зафіксаваны ва «*Уставе на валокі*» *1557*, арт. 10). Звесткі пра агульныя памеры К. ў ВКЛ не захаваліся. Паводле даных па асобных гарадах, яе доля ў дзярж. скарбе была невялікая (К. з Полацка за гарэлку ў 1506 складала 600 коп грошаў, з Менска ў 1494 і Крычава ў 1504 — па 60 коп грошаў, з Бабруйска ў 1502 — 30 коп грошаў). У 16 ст. К. збіралася 1 раз у год спецыяльна прызначанымі гаспадарскімі дваранамі. Вял. князь у некаторых выпадках адмаўляўся ад К. на карысць ваявод, старастаў, гарадоў. З сярэдзіны 16 ст. паступова знікла з-за раздачы корчмаў на водкуп прыватным асобам. У каралеўскіх гарадах захавалася да 18 ст. ў выглядзе *чопавага*.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 424—438.

**Капыль** (цяпер горад, цэнтр Капыльскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Навагародскім ваяв., на р. Мажа. Упершыню ўпамінаецца пад 1274 у Галіцка-Валынскім летапісе. У 14—18 ст. на месцы стараж. гарадзішча існаваў *Капыльскі замак*. З 1320-х г. у складзе ВКЛ. З 1395 уладанне кн. *Уладзіміра Альгердавіча* і яго нашчадкаў — князёў *Алелькавічаў*, цэнтр *Капыльскага княства*. У жн. 1506 слуцкія і капыльскія баяры, якіх сабрала слуцкая княгіня Анастасія, разбілі каля К. рэшткі войска крымскіх татараў, што адступалі пасля іх разгрому ў *Клецкай бітве 1506*. У час *Глінскіх мяцяжу 1508* К. захоплены М.Л.Глінскім, але замак узяты не быў. 25.11.1595 у час *Налівайкі паўстання 1594—96* каля К. адбыўся бой казацкага атрада на чале з палкоўнікам Марцінкам з войскам К.Радзівіла, у выніку якога Марцінак загінуў, а казакі адступілі. У 1612, пасля згасання роду Алелькавічаў, К. перайшоў да Радзівілаў. 27.8.1652 К. атрымаў магдэбургскае права (пачаў выбірацца магістрат з 2 бурмістраў, 4 радцаў, гар. пісара, войта і 4 лаўнікаў), права на кірмашы і штотыднёвыя таргі па пятніцах. Горад карыстаўся гербам з выявай паляўнічага рога. У 17 ст. тут дзейнічала 6 цэхаў — шавецкі, кравецкі, шапачны, мясніцкі, ткацкі, ганчарны. З канца 16 ст. былі кальвінскі збор і вял. царква. У 1695 каля К. адбылося сутыкненне атрадаў магнатаў Сапегаў і Радзівілаў, якія змагаліся за права валодання горадам. З 1791 К. у складзе Случарэцкага пав. Новагародскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.



Герб **Капыля**. 1652.

*Літ.*: Грыцкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Его ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Капыльскае княства**, феадальнае ўдзельнае княства ВКЛ з цэнтрам у г. Капыль. Утворана ў 1395, калі вял. князь Вітаўт адабраў у стрыечнага брата Уладзіміра Альгердавіча Кіеўскае княства і аддаў яму тэр. ад месца ўпадзення р.Случ у Прыпяць на Пд да вытокаў Нёмана на Пн з цэнтрам у замку ў Капылі і ў г. Слуцк. К.к. стала спадчынай Уладзіміра Альгердавіча, яго сына Алелькі (Аляксандра) і нашчадкаў апошняга — *Алелькавічаў*. У канцы 14 — 1-й пал. 15 ст. княства называлася таксама Капыльска-Слуцкім і Слуцка-Капыльскім, з 2-й пал. 15 ст. — Слуцкім (з сярэдзіны 15 ст. Слуцк — сталіца Алелькавічаў). У пач. 1440-х г. князь Алелька атрымаў ад стрыечнага брата вял. князя Казіміра Ягелончыка Кіеў і пакінуў К.к. сынам. Старэйшы, Сямён, атрымаў *Слуцкае княства*, малодшы, Міхаіл — К.к. Пасля смерці Алелькі Уладзіміравіча ў 1454, калі Сямён перайшоў у Кіеў, Міхаілу адышло таксама Слуцкае княства. Паводле суднай граматы вял. князя Аляксандра (16.1.1494) тэр. К.к. ўключала: г. Капыль з яго дварамі (цэнтрамі маёнткаў) і дворцамі (цэнтрамі невял. маёнткаў) — Байлаўцы (Баелаўцы), Сыраватчычы, Старыца, Скеп'ева, Старое Ся-

ло. Пазней згадваюцца Цімкавічы. Такі адм. лад захаваўся да 1791. Да гэтага часу К.к. было адной з адм.-тэр. адзінак Слуцкага княства са сваім намеснікам (або губернатарам). У 1582 браты Алелькавічы, сыны князя Юрыя Юр'евіча, падзялілі ўладанні бацькі. К.к. з г. Капыль і дварамі Цімкавічы, Семежава, Савічы і інш. разам са Слуцкам выдзелена Яну-Сымону (пасля яго смерці ў 1592 усе маёнткі адышлі пляменніцы, Соф'і Юр'еўне). Паводле дакумента 1744, у падпарадкаванні К.к. знаходзіліся маёнткі Адамовічы (або Вагрымаўшчына), Бібакоўшчына, Балгавічы, Бабоўня, Бязлабікі, Цецяровічы, Чыжэвічы, Доктаравічы, Дарагавічы, Гішковічы, Грозаў Малы, Ізва, Якубавічы, г.Капыль з фальваркамі, Класоўшчына, Кабылічы, Келя, Какорычы, Краяўшчына, Кунцаўшчына, Лагнытоўшчына, Малышкоўшчына, Мардвілоўшчына, Адналовічы, Асташын, Драўляны, Пясочнае, Палужжа, Паўбераг, Прывада, Раманаў (мястэчка і фальварак), Рыле, Русакі, Старыца, Слабодка, Свідзічы, Свінка, Шастакі, Скабін, Ісаў, Верасcова, Заўшчэнне, Завулкі. У 1791 сейм Рэчы Паспалітай скасаваў К.к. (разам са Слуцкім) і ўтварыў на іх тэр. Случарэцкі пав., але памешчыцкая адміністрацыя Радзівілаў, а потым Вітгенштэйна захоўвалася яшчэ ў 1-й пал. 19 ст.

*Літ.*: Jelski A. Słuck // Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1889. T.10; Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Капыльскі замак.** Існаваў у г. *Капыль* у 14—18 ст., вырас з дзядзінца летапіснага Капыля, які ў сваю чаргу заняў гарадзішча ранняга жалезнага веку. Займаў ледавіковы марэнны астанец, які ўзвышаецца над поймаю р. Каменка на 10—13 м. Схілы стромкія, 40—70°. Пляцоўка гары амаль роўная, эліпсападобнай формы, памерамі 45 х 100 м, выцягнута ў напрамку Пн—Пд, мае невял. паглыбленне да цэнтра. Захаваліся рэшткі земляных умацаванняў — валы вышынёй 2,5—3 м і шырынёй у падножжы 16—18 м, насыпаныя з пяску і гліны. Ад драўляных умацаванняў захаваліся абгарэлыя рэшткі ў насыпе вала. З напольнага боку замак ахоўваўся ровам шырынёй 20 м і глыбінёй каля 3 м. У час небяспекі роў, магчыма, запаўняўся вадой з Каменкі з дапамогай плаціны. Забудова ў замку была драўляная. У пач. 16 ст. Капыль лічыўся адным з «найважнейшых княжацкіх замкаў з месцам», г.зн. горадам. Канструкцыйна К.з. адносіўся да дрэваземляных замкаў без бастыённых умацаванняў. Рэшткі апошніх засталіся наўкол вакольнага горада (падзам'я), дзе месцамі захаваўся вал вышынёй 2,5 м і шырынёй у падножжы 14 м і дзе з напольнага боку захаваўся роў шырынёй 6—8 м і глыбінёй 2—3 м. Замак, відаць, быў рэзідэнцыяй уладальнікаў Капыля — Алелькавічаў і Радзівілаў, якія пражывалі ў ім эпізадычна. Пастаянна тут жыў толькі іх намеснік. У 1996—99 тут праводзіліся археалагічныя раскопкі, вывучана плошча каля 500 м$^2$.

*Літ.*: Калядзінскі Л. Даследуецца Капыль // Бел. гіст. часопіс. 1996. № 4.

***Лявон Калядзінскі.***



Да арт. **Капыльскі замак**. Гарадзішча ў Капылі.

**Капыскі** Залман Юдавіч [Зіновій Юльевіч; 6(19).1.1916, г. Віцебск—14.12.1996], беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1968). Скончыў Мінскі ін-т нар. гаспадаркі (1939). Працаваў у Мінскім аблпланаддзеле (1939), у Ін-це эканомікі АН БССР (1941). Удзельнік Вял. Айч. вайны. У 1950—90 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР. Даследаваў гісторыю бел. феад. горада, крыніцазнаўства, гістарыяграфію гісторыі Беларусі феад. эпохі. Адзін з аўтараў «Гісторыі Мінска» (1957), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), кніг «Полацк: Гістарычны нарыс» (1962), «Гісторыя рабочага класа Беларускай ССР» (т. 1, 1984), «Нарысаў гісторыі Беларусі» (ч. 1, 1994).

*Тв.*: Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Сборники документов по истории Белоруссии, изданные в БССР (1921—1971 гг.) // Археографический ежегодник за 1974 г. М., 1975; Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978; У.І.Пічэта аб феадальным грамадстве ў Беларусі XV—XVI стст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1978. № 5 (з М.Ф.Спірыдонавым); Города Великого княжества Литовского в государственном законодательстве XVI—первой половины XVII в. // Первый Литовский Статут 1529 г. Вильнюс, 1982; Историография БССР: Эпоха феодализма. Мн., 1986 (з В.У.Чапко), Беларуска-літоўскія летапісы XV—XVI стст. як помнікі гістарычнай думкі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1986. № 4; Белоруссия феодального периода в советской историографии 20-х годов // Сов. славяноведение. 1986. № 4.

**капэла** (позналац. capella), у сярэдневяковую царкоўныя хары, што спявалі без суправаджэння; з развіццём інструментальнай музыкі назва пачала ахопліваць разнастайныя музычныя калектывы мяшанага складу (царкоўныя і свецкія), якія папярэднічалі класічнаму аркестру. У ВКЛ існавалі прыдворныя вялікакняжацкія і магнацкія, царкоўна-манастырскія, гарадскія, вайсковыя К.

Капэлы вялікакняжацкія існавалі пры дварах вял князёў ВКЛ. У асобныя перыяды (асабліва ў 16 ст.) іх К. лічыліся аднымі з лепшых у Еўропе.



Найчасцей складаліся з некалькіх асобных груп музыкантаў, якія выконвалі розныя функцыі. Відаць, муз. ансамблі існавалі ўжо пры двары вял. князя Гедзіміна і яго сыноў Альгерда і Кейстута.

Першыя дакументальныя звесткі аб прыдворнай музыцы ВКЛ датычаць дачкі вял. князя Гедзіміна, польскай каралевы *Альдоны* (Ганны) (1309 або 1310 — 1339). Як паведамляе Я.Длугаш пра Альдону, «толькі забавам, танцам і весялосці была аддадзена, і настолькі, што, куды б ні выязджала конна ці ў карэце, заўсёды наперадзе суправаджаў яе гурт спевакоў з арфамі, бубнамі (барабанамі), гуслямі, напяваючы песні і розныя мелодыі…». Паводле інш. крыніц, у 1325—29 і 1333—39 на службе ў Альдоны быў «досыць вялікі ансамбль спевакоў з бандурамі (sambucis), барабанамі (tympanis) і лірамі (fialis, viella)…». Значную ролю ў развіцці музычнай культуры ВКЛ адыгралі вял. князі Вітаўт і Ягайла. Абапіраючыся на моцныя мясц. традыцыі, Вітаўт адначасова ахвотна развіваў кантакты з зах. культурай. Вял. магістр Тэўтонскага ордэна Конрад фон Юнгінген выслаў Вітаўту і яго жонцы Ганне шмат музыкантаў, у т.л. ў 1399 на Сёмуху лютністаў, у 1406 накіраваў да іх магістра музыкі Пастарнака з таварышамі, у 1408 жонцы Вітаўта ў падарунак дасланы клавікорд і партатыў. У сваю чаргу музыканты з двара Вітаўта з'яўляліся пры двары вял. магістра, у 1390, 1404 і 1405 выступалі ў Мальбарку. Відаць, гэтыя гастролі адбываліся ў час дыпламатычных сустрэч двух бакоў. Вялікакняжацкі двор Вітаўта з канца 14 ст. меў кантакты ў музычнай сферы з дваром Ягайлы. Імёны адных і тых жа музыкантаў сустракаюцца ў абодвух прыдворных К., адбываўся абмен імі паміж гедзімінавічамі. Так, у 1393 Ягайла прыслаў Вітаўту флейтыстаў (або пішчалкістаў) Аўлона і Няспеху, а таксама трубача Хінча.

Пасля прыняцця Крэўскай уніі 1385, калі адна асоба аб'яднала манаршыя паўнамоцтвы двух суседніх дзяржаў, паняцце «вялікакняжацкая К.» ў пэўнай ступені інтэгрыравана ў паняцце «каралеўская К.» (асабліва пасля смерці Вітаўта). У асноўным К. знаходзілася там, дзе быў сам Ягайла і яго нашчадкі і пераемнікі — найбольш перыяд у Кракаве, пазней — у Варшаве і Дрэздэне. З таго часу дзейнасць вялікакняжацкіх К. стала культ. набыткам як Кароны, так і ВКЛ. Двор Ягайлы ў Кракаве, які складаўся пераважна з яго бел. («ліцьвінскай і русінскай») службы, налічваў значную колькасць музыкантаў. У канцы 14 — пач. 15 ст. тут працавалі флейтысты Громак,Ківала, Лінч (інш. варыянт Лінг), Ліпча, Сінч, трубачы Барталамей, Бінча і (або) Хінч, тымпаністы («бубністы») русін Білава, Апанас, лютністы «cytarzysta» Міхал, лірнік Русін, «надворны спявак і лютніст каралевы Хандслік» і інш. У 1418 у запісах падскарбіяў прыгадваецца таксама арганіст. У 1422 вядома імя каралеўскага клавіцымбаліста Нікалаўса. У К. ў 1401 таксама прысутнічае жанчына-флейтыстка, якая пазней выехала ў Францыю. Іншыя музыканты з каралеўскай К. таксама нярэдка вандравалі ў Зах. Еўропу: у 1401, 1402, 1405 і 1406 шпільманы Ягайлы былі ў Мальбарку, у 1430 каралеўскі музыкант знаходзіўся ў Турыне і інш. У 1411 К. Ягайлы складаліся з групы духавых і ўдарных інструментаў, салістаў-струннікаў (пераважна лютністаў), вакальнага ансамбля. Іх рэпертуар вызначаўся той функцыяй, якую выконвала гэта група музыкантаў, і быў характэрны для еўрапейскай музычнай практыкі таго часу. Былі таксама арыгінальныя творы рэгіянальных і мясцовых аўтараў з прысвячэннямі айчынным манархам. На думку даследчыкаў, музычныя формы твораў, што выконваліся пры двары Ягайлы, цалкам адпавядаюць формам тагачаснай італьянскай музыкі: спеўнарэчытатыўныя манодыі з інструментальным акампанементам і вакальныя творы, у якіх прысутнічалі як гамафонныя, так і поліфанічныя рысы, што сведчыла пра высокі ўзровень музычнай культуры пры двары Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. У час каранацыі Ягайлы выкарыстоўваліся розныя формы літургічных спеваў — антыфоны і рэспансорыум, псалмы і гімн «Te Deum laudamus», літанія і інш. Група духавых і ўдарных інструментаў суправаджала манарха ў падарожжах і ваенных паходах, а лютністы і гусляры (у асноўным русіны) ігралі ў час адпачынку манарха.

Склад К. сына Ягайлы Казіміра і ўнукаў Яна Альбрэхта і Аляксандра быў пераважна з ВКЛ і Польшчы, што бачна па імёнах капэлістаў (напр., Баярын Ян з Белай і інш.). У 1498—1505 (1510?) на пасадзе спевака і капельмайстра пры двары Аляксандра Ягелончыка ў Вільні (магчыма, і Кракаве) працаваў нямецкі кампазітар, аўтар мес, матэтаў, песень Г.Фінк. У канцы 15 — пач. 16 ст. у К. Аляксандра Ягелончыка таксама працаваў лютніст бел. паходжання Чурыла (магчыма, некаторы час быў і кіраўніком К.), які часта спяваў на старабеларускай мове пра «Літву» каралевічу Жыгімонту (будучаму Жыгімонту Старому).

Гедзімінавічы ў 14—пач. 16 ст. адыгралі вядучую ролю ў развіцці музычнага мастацтва ВКЛ, актывізавалі музычнае жыццё і легалізавалі інструментальную музыку ў найвышэйшых саслоўях грамадства. Глыбокая ўгрунтаванасць і любоў да сваёй старажытнай бытавой і культавай (паганскай) традыцыі і форм музіцыравання, не абмежаваных царк. аскетызмам сярэднявякоўя (што было ўласціва некалькім пакаленням тагачасных польскіх манархаў), спалучаліся з жывой цікаўнасцю да новых зах. музычных форм і інструментарыя.

Пры Жыгімонце Старым [1506—48] і Жыгімонце Аўгусце [1548—72, фармальна з 1529] адбываецца арыентацыя К. на італьянскую традыцыю. Гэты працэс быў сінхронны з інш. уплывамі італьянскага рэнесансу на культуру Польшчы і ВКЛ і тлумачыўся найперш актыўнай пазіцыяй каралевы Боны Сфорцы. Паступова ўзмацняецца пранікненне ў музыку зах. форм, жанраў, інструментарыя. Побач з айчыннымі (спявак Стафан з Вільні, П.Ёшка, Л.Янкоўскі і інш.) у капэлах з'яўляюцца музыканты італьянскага і нямецкага паходжання (Барніяні, А.Пезэнці з Вероны, М.Бах, Я.Клаўс і інш.). У 1540—69 капельмайстрам К. быў віленскі канонік Я.Вярбкоўскі (Вірбковіус), а ў 1569—72 — Ю.Ясінчыц. У К. як спевакі працавалі кампазітары М.*Гамулка* (1545) і *Вацлаў з Шамотул* (1547—54?), лютніст і кампазітар В.*Бакфарк*. З 1558 у кракаўскай К. працаваў Б.Кейхэр — уладальнік адной з найвялікшых у той час майстэрняў па вырабе духавых інструментаў, а таксама лютняў.

У 1543 у Гародні заснавана «Літоўская капэла» (у адрозненне ад кара-



леўскай кракаўскай К.), якая ў асн. складалася з дудароў і выканаўцаў на інш. духавых інструментах. У 1601 у склад К. ўваходзілі 15 музыкантаў: М.Кавянчук і С.Рагейскі (тымпаністы), Х.Бланк, Я.Браўн, П.Гертсан (Ортсан), В.Кулакоўскі, П.Лаўрэнцій, Магнус, Я.Міхаловіч, Я.Няркоўскі (Ніркоўскі), Я.Пэль, Я.Пташкоўскі, Э.Том, Э.Торсцін, Г.Фін. З 1601 у ёй працаваў трубач Б.Шрэтэр.

У час Стафана Баторыя капэлы былі выдатнымі асяродкамі еўрап. ўзроўню, дзе працавалі многія вядомыя кампазітары і выканаўцы і прысутнічалі амаль усе вядомыя на той час еўрап. інструменты. Так, у 1586 Гарадзенская К. мела флейты, шаламаі, помарты, карнеты, пузоны, барабаны, скрыпкі, клавіцымбалы, рэгалы, мабыць, трубы, лютні і інш. Кіраўнікамі К. у гэты час былі А.Душа (1572—78), кампазітар, спявак і інструменталіст К.*Клабан* (1578—1610). У 1596 з пераездам сталіцы Кароны ў Варшаву туды перамясціўся і музычны цэнтр. Новы кароль і вялікі князь Жыгімонт Ваза [1587—1632], а пазней яго сын Уладзіслаў [1632—48] актыўна падтрымлівалі музычнае і тэатральнае мастацтва. У 1602—23 удзельнікам, а потым і кіраўніком К. быў А.Пачэлі, пры двары знаходзіліся вядомыя італьянскія кампазітары Дж.Ц.Габусі, В.Ліліюс і Д.Като. Шматлікія ўдзельнікі К. ў розныя часы працавалі ў прыдворных альбо кафедральных К. Рыма, Мілана, Вены, Мюнхена, Граца, Інсбрука і інш. гарадоў Зах. Еўропы. У 1623—28 капельмайстрам быў Дж.Ф.Анэрыо, у 1628—48 — М.Скакі. У гэты перыяд у К. працавалі кампазітары эпохі барока Ф.Ліліюс, М.Мяльчэўскі, спявак, каралеўскі сакратар і аўтар лібрэта шматлікіх італьянскіх опер, што ставіліся пры каралеўскім двары ў Варшаве ў 1630—50, В.Пучытэлі, лютніст і кампазітар французскага паходжання А.Гало Д'Анжэ (памёр у Вільні ў 1643), лютніст П.Рашковіч і інш.

К. часоў Яна Казіміра [1648—68], Міхала Вішнявецкага [1669—73] і Яна Сабескага [1674—96] адметная дзейнасцю польскіх кампазітараў і капельмайстраў Б.Пэнкеля ў 1649—57? і Я.Ружыцкага ў 1657—1707? Сярод інш. музыкантаў у К. былі лірнік ці бандурыст С.Страдаўніцкі (1668 — 71), бандурысты і спевакі Весялоўскі (1693—94), Нецай (Нечай) (1693), бандурыст Валошы (1694).

Новы этап існавання каралеўска-велікакняжацкіх К. звязаны з пачаткам уладарання ў Рэчы Паспалітай Саксонскай дынастыі. Два музычныя цэнтры — Дрэздэн і Варшава — у розныя перыяды (з перапынкамі) мелі свае прыдворныя музычныя калектывы. У гэты час у К. працавалі капельмайстры і кампазітары Я.Ружыцкі, І.К.Шміт (1707—17), Дж.А.Рысторы (1717—31), І.А.Хасе (1731—62). У 1717 у К. зафіксаваны скрыпач і кампазітар Ф.Бэнда, мультыінструменталіст, кампазітар і тэарэтык І.І.Кванц, кампазітар Я.Д.Зэленка. Унія з Саксоніяй яшчэ больш паглыбіла інтэграванасць польскай і бел. музычных культур у заходнееўрапейскія працэсы. Існаванне К. пры двары Аўгуста Моцнага [1697—1706 і 1709—33] і Аўгуста III [1733—63] паўплывала на развіццё айчынных магнацкіх капэл 18 ст. Пасля смерці Аўгуста III К. была часова распушчана, пазней зноў сабрана Станіславам Аўгустам Панятоўскім [1765—95]. У гэты перыяд цяжка адрозніць членаў уласна каралеўскай К. ад членаў аркестра каралеўскай оперы, што працавала ў той час. Нярэдка ў велікакняжацкіх К. працавалі музыканты з магнацкіх К. Радзівілаў, Агінскіх і інш. У 1764—67 капельмайстрам, відаць, быў Жэрардзі, да 1771—Я.Стэфані, у 1780—93—Гаэтані, у 1782 і 1793—95— Дж.*Альберціні*. Сярод капэлістаў былі кампазітар Ф.*Яневіч*, скрыпачы-віртуозы Віёці, Пуньяні і інш.

У 18 ст. існавала таксама Каралеўская янычарская К., якая складалася з польскіх і бел. музыкантаў. У яе ўваходзілі выканаўцы на духавых (пераважна на сурмах) і разнастайных ударных інструментах.

Велікакняжацкія (пазней каралеўскія) К. адыгралі вял. ролю ў развіцці музычнай культуры ВКЛ, з'яўляліся важнымі цэнтрамі музычна-прафесійнага мастацтва, дзе актыўна развіваліся муз. навучанне, выканальніцкая і кампазітарская практыка, садзейнічалі культ. кантакту музыкантаў розных гарадоў і краін, узаемапранікненню музычных працэсаў, узбагачэнню культур новымі творамі, жанрамі, інструментарыем.

Капэлы магнацкія існавалі пры дварах знаці ВКЛ і забяспечвалі разнастайныя, у т.л. рэпрэзентатыўныя, патрэбы гаспадароў, удзельнічалі ў пастаноўках магнацкіх тэатраў, паратэатральных дзеях. З'яўляліся важнымі цэнтрамі развіцця прафесійнага музычнага мастацтва ВКЛ. Адной з першых вядомых магнацкіх К. была К. ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ М.Радзівіла (каля 1470—1521). Паводле дакументальных звестак, калі князь на чале пасольства ВКЛ разам з каралём польскім выправіўся ў 1515 на з'езд Ягелонаў і Габсбургаў у Пожань (сучасная Браціслава) і Вену, яго суправаджала К. Крыніцы падаюць фантастычную лічбу ўдзельнікаў тагачаснай Радзівілаўскай К. — «100 музыкаў». У 16—18 ст. К. мелі многія буйныя магнаты, а ў 17 і асабліва 18 ст. таксама і іншыя шляхецкія роды Беларусі. Найб. вядомымі былі *Нясвіжская капэла Радзівілаў*, *Слуцкая капэла Радзівіла*, *Слонімская капэла Агінскага*, Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне, *Гарадзенская капэла Тызенгаўза*.

Капэлы царкоўна-манастырскія былі пашыраны ў многіх рэлігійных асяродках ВКЛ у перыяд барока, асабліва ў вял. каталіцкіх і уніяцкіх цэнтрах. Яны ўдзельнічалі ў літургіях і інш. царк. мерапрыемствах, у пастаноўках школьных тэатраў, гарадскіх рэлігійных святах, часта аб'ядноўваліся для гэтага з магнацкімі К. Езуіты, дамініканцы, базыльяне і інш. манаскія ордэны мелі К. пры бурсах у Віцебску, Гародні, Жыровічах, Магілёве, Полацку і інш. (гл. *Гарадзенская капэла езуіцкай бурсы*).

Капэлы гарадскія існавалі ў некаторых гарадах для забеспячэння пэўных цырыманіяльных функцый. Найб. вядомая «Менская гарадская музыка», заснаваная ваяводам менскім К.С.*Завішам*.

Капэлы вайсковыя існавалі пры розных вайсковых фарміраваннях ВКЛ (пяхотныя, конныя палкі, янычарскія харугвы). Складаліся пераважна з духавых і ўдарных інструментаў, якія выкарыстоўваліся ў ваенных, сігнальных, старажавых, а таксама ў парадных мэтах. Сярод інструментаў — «пішчалкі», дуды, сурмы, трубы, барабаны, талеркі, тулумбасы, пазней — габоі, радзей — кларнеты, фаготы і інш.

*Літ.*: Фралоў А. Вялікакняскія капэлы Гедымінавічаў (Альдоны, Вітаўта і Ягайлы),



Да арт. **Карабельнік**.
Нобль Эдуарда III.

як цэнтры развіцця прафесійнага музычнага інструменталізму Беларусі // Весці Бел. дзярж. акадэміі музыкі. 2004. № 5; Я г о ж. Рэфармацыя і музыка // Рэфармацыя і грамадства: XVI стагоддзе. Мн., 2005.

*Аляксей Фралоў.*

**карабельнік** («корабельникъ», «корабелникъ», «карабелникъ», «караблениκъ»), назва ў 14—пач. 17 ст. ў Польшчы (з мяжы 14 і 15 ст.), ВКЛ (з пач. 15 ст.), Наўгародска-Пскоўскім рэгіёне (з 1399) і Маскоўскай дзяржаве (з 1476) залатых англійскіх нобляў (1344—1465), розенобляў (1461—1603), энджэлаў (1470—1634) і іх перайманняў. Назва з'явілася на мяжы 14 і 15 ст. з-за малюнка на рэверсе манеты карабля (ладдзі), на якім стаіць кароль. З-за высокай масы (ад 8,858 г у 1344 да 6,998 г у 1399—1413) і пробы (925-я) ноблі былі папулярныя ў Зах. Еўропе, дзе пачалі выпускаць іх перайманні. Чаканілі іх у Шатландыі, Аквітаніі, Бургундыі, Люксембургу, Нідэрландах, Фландрыі, Даніі і інш. Ва ўсх.-еўрапейскіх дзяржавах (Польшча, ВКЛ, Прыбалтыка, Расія) К. стаў папулярны з канца 14 ст., калі ён панізіўся ў масе да 6,998—7,15 г і адпавядаў 2 венгерскім (угорскім) дукатам масай па 3,5 г. На Русь К. пачалі паступаць у 1399 у Ноўгарад праз Дорпат (Тарту). Іх перайманні чаканілі ў Ноўгарадзе (1477—78) і Маскве. У Лівонскім ордэне і Ноўгарадзе каля 1489—94. К. адпавядаў 6,5 рыжскім маркам або 2/5 наўгародскага рубля (2 дукатам). Мяркуецца, што ў Расіі ў 15—16 ст. К. гандлёвага значэння практычна не меў. У рас. крыніцах ён часцей згадваецца ў якасці «памінкаў» (падарункаў) або як воінская ўзнагарода. У Польшчы ў 1526 К. каштаваў 2 угорскія (венгерскія дукаты), або 80 польскіх, грошаў (64 літоўскія грошы), а ў 1577 меў рынанчы курс 112 польскіх грошаў. У ВКЛ у 1534—39 К. роўны 2 угорскім, або 3 польскім, злотым (па 24 літоўскіх, або 30 польскіх, грошаў), або 50 пражскім грошам. У 1548 яго кошт вырас да 106 польскіх грошаў. З 1534 у грашовым абароце знаходзіўся поўкарабельнік (роўны 1 угорскаму, або 36 літоўскім, грошам, або 45 польскім грошам). На тэр. сучаснай Беларусі К. выяўлены ў Слуцкам скарбе 1902, дзе сярод 20 залатых манет былі 2 англійскія ноблі Генрыха IV (1399—1413). У пісьмовых крыніцах ВКЛ К. упершыню згадваецца 28.2.1457, а ў апошні раз — 14.12.1534. У адрозненне ад рас. традыцыі ў ВКЛ К. выкарыстоўваліся не толькі як падарункі, але і для назапашвання скарбаў, часам у гандлёвых аперацыях. Аб яго папулярнасці сведчыць факт крадзяжу ў 1511 у пана Грыгорыя з маёнтка ў Троцкім ваяв. 40 000 залатых (дукатаў) і 1800 К.

*Літ.*: П о т и н В.М. Корабельники на Руси // Нумизматика и эпиграфика. М., 1970. Т. 8; Б е к т и н е е в Ш.И. «Корабельники» в Великом княжестве Литовском // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 11.

*Шаміль Бекцінееў.*

**карабеля**, парадная шабля ў 16—18 ст., якую выкарыстоўвалі выключна для ўпрыгожвання шляхецкага ўбрання. Звычайна была больш лёгкая і тонкая, чым баявыя, мела апраўленую ў серабро або золата рукаяць з каштоўнымі камянямі. Назва ад персідскага г. Кербела непадалёку ад Багдада, дзе іх пачалі вырабляць.



**Карабеля**. 17 ст.

**караімы**, этнаканфесіянальная група, нешматлікі цюркамоўны народ з уласнай рэлігіяй — адгалінаваннем іудаізму. Былі пашыраны ў Крыме, а з 14 ст. ў ВКЛ. Паходжанне дакладна не высветлена. Першапачаткова К. (літаральна на іўрыце — «якія чытаюць») у 8 ст. ў Багдадзе называлася яўрэйская секта, створаная Ананам бен Давідам. Веравучэнне секты было заснавана на прызнанні адзінай крыніцай веры Бібліі (Стары Запавет) і адмаўленні рабінска-талмудысцкай традыцыі. У 9 ст. іх дактрыну распрацаваў Беньямін Нахавендзі, караімскае сектанцтва пашырылася ў Грузіі, Палесціне, Егіпце, Іспаніі і інш. У 12 ст. цэнтр духоўнага жыцця К. перамясціўся ў Візантыю. У 12 ст. К. з'явіліся ў Крыме, у 13 ст. ў г. Салхат (сучасны Стары Крым) існавала іх шматлікая абшчына. На думку некаторых даследчыкаў, К. прыбылі сюды з Візантыі; караімскі гісторык 19 ст. Абрам Фірковіч прапанаваў версію, што К. — нашчадкі стараж. ізраільцян, якія аселі ў Крыме яшчэ ў 6 ст. да н.э. Сучаснай навукай апошняя версія адвяргаецца. Больш верагоднай з'яўляецца думка пра зліццё К.-сектантаў з цюркамі-хазарамі, якія вызнавалі іудаізм і пасля разгрому Хазарскага каганата кіеўскім князем Святаславам (10 ст.) былі выцеснены ў Крым. Тут К. афарміліся як народнасць з уласнай караімскай мовай, што належыць да кіпчакскай групы цюркскіх моў. Паводле караімскага падання, у 1392 вял. князь ВКЛ Вітаўт разбіў крымскіх татараў і захапіў шматлікі палон, у т.л. і К. Палонныя былі паселены ў Троках, Луцку, Галічы і інш. У хуткім часе ВКЛ стала гал. культ. цэнтрам К. На караімскую мову была пераведзена літургія. Першы караімскі багаслоў у ВКЛ Іцхак бен Аўрахам Трокі (Трокскі) вядомы як аўтар палемічных антыхрысціянскіх трактатаў «Умацаванне веры», перакладзеных у 1681 на латынь. У сярэдневяковыі К. ўспрымаліся ўладамі і мясц. насельніцтвам як яўрэі; у 1495 пры выгнанні яўрэяў з ВКЛ К. таксама падлягалі высяленню. З уваходжаннем Крыма і ВКЛ у склад Рас. імперыі К. атрымалі шэраг ільгот, якіх не мелі яўрэі: магчымасць набываць зямельную ўласнасць, палёгку ад падаткаў, з 1827—28 — вызваленне ад воінскай павіннасці. Гэта адбывалася дзякуючы намаганням лідэ-



раў караімскіх абшчын, якія ў хадайніцтвах да ўрада падкрэслівалі сваё прынцыповае адрозненне ад артадаксальных іудаістаў. У 1835 К. дамагліся высялення яўрэяў з Трокаў і змены афіц. назвы супольнасці: замест «яўрэі-К.» яны сталі называцца «рускія К. старазапаветнага веравызнання», а пазней — проста К. У 1837 К. атрымалі права рэліг. самакіравання: у Таўрычаскай губ. (Крым) выбіраўся галава духавенства — хахам (гахам) з рэзідэнцыяй у Еўпаторыі, яму падначальваліся газаны — кіраўнікі кінас (караімскіх сінагог). Хахам і газаны еўпатарыйскай кінасы складалі Таўрычаскае караімскае духоўнае ўпраўленне, якому ў 1850 былі падначалены і К. заходніх губерняў. У 1863 К. поўнасцю ўраўнаваны ў правах з карэнным насельніцтвам Рас. імперыі. У 18—19 ст. вылучыўся шэраг караімскіх багасловаў і гісторыкаў. У 1920—30-я г. цэнтрамі культ. жыцця К. былі Вільня, Луцк, дзе выдаваліся часопісы і літ. творы, і Крым. У 2-ю сусв. вайну тэарэтыкі германскага расізму не прызналі ў К. этнічнага сваяцтва з яўрэямі, таму К. пазбеглі генацыду ў час акупацыі і толькі ў асобных гарадах (напр., Кіеў) падзялілі лёс яўрэяў. Пасля вайны К. ў СССР значна асімляваліся, цяпер у краінах СНД і Балтыі толькі некалькі тысяч чалавек. Найб. іх абшчына (каля 300 чалавек) у Тракаі (Літва). Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 65.

***Юрый Бажэнаў, Якаў Басін.***

**Каралеўскі канал** (Мухавецкі, Дняпроўска-Бугскі), канал, што злучыў басейны Чорнага і Балтыйскага мораў праз р. Піна (левы прыток Прыпяці, басейн Дняпра) і р. Мухавец (правы прыток Буга, басейн Віслы). Даўжыня канала ад г. Кобрын да в. Дубое на Піне 110 км. Будаўніцтва пачалося ў 1775. Адкрыццё канала адбылося вясной 1784 пробным сплавам з Пінска да Варшавы 10 рачных суднаў. Афіцыйна адкрыў суднаходства летам 1784 кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, праплыўшы па канале са світай у 40 чалавек на судне, якое было выдзеўбана з аднаго дубовага ствала. Гідратэхнічныя канструкцыі мелі выгляд дрэваземляных збудаванняў, за якім патрабаваўся пастаянны догляд. Для ўтрымання канала ў рабочым стане штогод патрабавалася 100 тыс. злотых, але з дзярж. скарбу выдзялялася 60 тыс. злотых. Пасля неаднаразовых рэканструкцый і мадэрнізацый у 19—20 ст. канал працягвае сваё функцыянаванне.



Да арт. **Каралеўскі канал**. Медаль, выбіты ў гонар аказання каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім грашовай дапамогі на будаўніцтва канала. Медальер І.Ф.Гольцгаўзер. 1786.

***Аляксандр Доўнар.***

**каралеўшчына**, пашыраная ў ВКЛ пасля Люблінскай уніі 1569 назва велікакняжацкіх уладанняў.

**Каралінскі замак.** Існаваў у прадмесці Пінска Каралін ў канцы 17—18 ст. Заснаваў вял. маршалак ВКЛ князь Я.К.Дольскі, які ў 1690 атрымаў ад сойма зямлю каля Пінска. Там было збудавана прадмесце Каролін, замак, які меў ваенную і прадстаўнічую функцыю, а насупраць яго — касцёл св. Карла Барамея. Замак узведзены ў новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэме, прамавугольны ў плане, меў памеры 76 х 38 х 46 х 76 м. Два паўд. бастыёны выходзілі на р. Прыпяць і мелі невял. памеры. Два паўн. бастыёны ахоўвалі замак з напольнага боку і вылучаліся значнымі памерамі; паміж імі знаходзілася брама. Бастыёны і курціны былі абмураваны каменем. Перад замкам ішоў роў шырынёй да 9 м з пад'ёмным мостам. На дзядзінцы стаяў палац уладальніка замка. Пасля смерці Дольскага (1695) перайшоў у спадчыну Вішнявецкім. Разбураны ў 1706 войскамі шведскага караля Карла XII, пасля адбудаваны. Рэшткі замка захоўваліся да пач. 20 ст., застаўся мураваны падземны ход, якім можны было выйсці на бастыёны.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.



**Каралінскі замак**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

**Каралявецкі універсітэт**, Універсітэт Альберта, Альбярцінум, вышэйшая навучальная ўстанова ў г. Каралявец (Кёнігсберг). Заснаваны першым герцагам Прусіі *Альбрэхтам* як пратэстанцкі ун-т. У 1540 было прынята рашэнне стварыць партыкулярную школу (Studium particularum) — навучальную ўстанову, прызначаную для падрыхтоўкі патэнцыяльных студэнтаў, якая пачала дзейнічаць у 1542. Урачыстае адкрыццё К.у. («акадэміі») адбылося 17.8.1544. Першым рэктарам стаў Георг Сабінус, зяць аднаго з лідэраў Рэфармацыі Ф.Меланхтана. У распрацоўцы навучальных планаў і падборцы выкладчыкаў браў удзел М.Лютэр. К.у. быў створаны на ўзор інш. нямецкіх ун-таў і складаўся з 4 факультэтаў: вышэйшых — тэалагічнага, юрыдычнага, медыцынскага і аднаго ніжэйшага — філасофскага, у кампетэнцыю якога ўваходзілі прыродазнаўчыя навукі і матэматыка. Тэалагічны факультэт узначаліў ураджэнец ВКЛ С.*Рафаловіч* (Рапагелянус). З ВКЛ паходзіў праф. старажытных моў А.*Кульвец*. У год свайго адкрыцця К.у. меў 11 прафесараў і больш за 300 студэнтаў. Першапачатковыя праблемы з афіцыйным наданнем уні-

версітэцкіх правоў былі вырашаны, калі 28.3.1560 у Вільні кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст даў К.у. прывілей, які ўраўнаваў яго ў правах з Кракаўскім ун-там. Ун-т атрымаў права ўласнай юрысдыкцыі з паўнамоцтвам крымінальнага пакарання супрацоўнікаў і студэнтаў; прафесары пазбаўляліся ад многіх падаткаў; на ўрачыстых цырымоніях рэктар мусіў знаходзіцца побач з герцагам; памерлых прафесараў хавалі побач з кафедральным саборам. У К.у. ахвотна прымалі студэнтаў з ВКЛ, з 24 заснаваных стыпендый 7 прызначаліся для ўраджэнцаў ВКЛ. У 1544—1600 там навучаліся 202 юнакі з ВКЛ, у 17 ст. — 230 (паводле Т.Васілеўскага, у К.у. і ў Эльблонгу ў 1587—1648 навучаліся 172 юнакі з ВКЛ; паводле М.Паўляка, на працягу 1544—1772 у К.у. вучыліся 332 ураджэнцы ВКЛ). Практычна цалкам гэта была пратэстанцкая моладзь. Дзверы ун-та былі адчынены для досыць дэмакратычнай па паходжанні аўдыторыі, і герцагу Альбрэхту нават даводзілася заклікаць знаць пасылаць сваіх дзяцей на вучобу ў К.у. Дзейнасць К.у. рабіла ўплыў на культ. і рэлігійную сітуацыю ў ВКЛ, найперш на асяроддзе этнічных літоўцаў, бо значная колькасць літ. насельніцтва жыла ў межах Прусіі, і найперш на іх была накіравана культуртрэгерская і пратэстанцкая прапаганда прускіх герцагаў і К.у. Ун-т стаў цэнтрам рэлігійных дыскусій, дзе лютэранскія тэолагі адстойвалі правату свайго вучэння не толькі перад каталікамі, але і перад кальвіністамі. Першапачатковы не самы высокі ўзровень выкладання прыродных і дакладных навук быў звязаны з адарванасцю К.у. ад асн. урбаністычных і навук. цэнтраў Германіі і з прускім рэгламентарызмам. Затое К.у. стаў значным рэгіянальным асветніцкім і культ. цэнтрам на землях паўд. ўзбярэжжа Балтыкі. Традыцыйна моцным у К.у. быў літуаністычны асяродак. Першымі семінарамі ў К.у. сталі літоўскі і польскі (заснаваныя адпаведна ў 1718 і 1728). У 19—20 ст. з К.у. звязана дзейнасць нямецкіх гісторыкаў, якія даследавалі праблематыку ВКЛ: Й.Фойгт, Л.А.Бачка, К.Г.Ламаер, М.*Гельман*; у 1803—05 там вучыўся І.*Анацэвіч*. К.у. спыніў сваю дзейнасць у 1945.

*Літ*: L e h m a n n J. Die örtliche und soziale Herkunft der Königsberger Studenten 1544—1649. Leipzig, 1929; W o t s c h k e T. Polnische und litauische Studenten in Königsberg // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. 1930. Bd. 6, H. 4; H u b a t s c h W. Die Albertus-Universität zu Königsberg in Preußen in der deutschen Geistesgeschichte 1544—1944 // Deutsche Universitäten und Hochschulen im Osten. Köln; Opladen, 1964. Bd. 30; P a w l a k M. Studia uniwersyteckie młodzieży z Prus Królewskich w XVI—XVIII w. Toruń, 1988; B o g d a n M. Studenci z Rzeczypospolitej na Uniwersytecie Królewskim w latach 1544—1619 // Królewiec a Polska. Olsztyn, 1993; S e l l e G. Geschichte der Albertus-Universitat zu Königsberg in Preußen. 2. Aufl. Würzburg, 1994; Л а в р и н о в и ч К.К. Альбертина: Очерки истории Кенигсбергского университета. Калининград, 1995; M a t u l e v i č i u s A. Didžiosios ir Mažiosios Lietuvos studentai Karaliaučiaus universitete XVI—XIX a. // Vakarų Lietuvos katalikiškoji kultūra. Klaipėda, 1996. T. 3; M a ł ł e k J. Polscy i litewscy studenci na Uniwersytecie Królewskim w XVI i XVII wieku // Europa orientalis. Toruń, 1996; M a t u l e v i č i u s A. Studenci Wielkiej i Małej Litwy na uniwersytecie w Królewcu // W kręgu kultur bałtyckich. Olsztyn, 1998.

***Алег Дзярновіч.***

**Каран** (араб. Аль-Кур'ан — чытанне), свяшчэнная кніга мусульман, на арабскай мове. У рукапісах К. татараў ВКЛ сустракаюцца прадмовы і пасляслоўі на бел. і польскай мовах (але заўсёды арабскімі літарамі), дзе паведамляецца пра абрады і малітвы, якія трэба выконваць перад чытаннем свяшчэннай кнігі. К. пісалі каліграфічным почыркам, пры гэтым выкарыстоўвалі больш яркае чарніла. Часта першыя аркушы кнігі (1-я і пач. 2-й сураў) упрыгожваліся маляўнічымі рамкамі з выявамі мячэцей ці інш. малюнкамі. На пачатку кожнай суры чырвоным чарнілам пазначаліся яе назва, перыяд (меканскі ці медынскі) і колькасць айатаў. На палях пазначалі падзел на джузы і хізбы (тэкст К. падзелены на 30 джузаў і 60 хізбаў). 1/30 частку К. называлі таксама суфрай. Былі і асобныя рукапісы (сшыткі) суфраў, якія выкарыстоўваліся для навучання дзяцей і чытання К. над памерлым (некалькі чалавек чыталі адначасова ўвесь К.). Тэкст К. (цалкам ці асобныя суры, айаты) прысутнічае амаль ва ўсіх рукапісах бел. татараў. Напр., у *хамаілах* прыводзіўся традыцыйны набор тэкстаў: 1-я, 2-я суры (з яе звычайна перапісваўся толькі пачатак), 36-я, 59-я (з 17 ці 18 айата), 112-я, 113-я, 114-я. У хамаілах сустракаюцца і тэксты, прысвечаныя варажбе па К.

К. захоўваўся ў многіх сем'ях бел. татараў. На сённяшні дзень зарэгістраваны 41 рукапісны К. з зямель ВКЛ. Старэйшы рукапіс (1682) захоўваецца ў калекцыі Пскоўскага гіст.-археал. музея. У Беларусі К. зберагаюцца ў Нац. б-цы (4), Цэнтр. навук. б-цы НАН Беларусі (4), Гродзенскім дзярж. музеі гісторыі рэлігіі (2) і ў прыватных калекцыях.

*Літ.*: D r o z d A., D z i e k a n M.M., M a j d a T. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 2000; Г а н ч а р о в а І.А., Ц і т а в е ц А.І., Т а р э л к а М.У. Рукапісы беларускіх татараў канца XVII—пачатку XX стагоддзя з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: Каталог. Мн., 2003.

***Алена Цітавец.***

**карацына**, к а р а ц э н а (італьян. carazina ад лац. corium кара, верхні слой, скура), назва ў 16—17 ст. даспеха са стальных пласцінак у форме лускі, замацаваных на скураной або тэкстыльнай аснове. Поўны камплект К. складаўся з нагрудніка, наспінніка, наплечнікаў, налакотнікаў. К. была цяжэйшая, чым суцэльнакаваныя даспехі, і выконвала хутчэй прадстаўнічую ролю. Узорам для яе сталі адпаведныя старажытнарымскія даспехі, што набылі папулярнасць дзякуючы ідэалогіі



**Карацына**. 17—18 ст.



*сарматызму*. Пласціны К.знойдзены пры археал. раскопках Берасця (16 ст.) і Клецка (17 ст.).

**Карачаўскае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Адно з *Вярхоўскіх княстваў*. Вылучылася са складу *Чарнігаўскага княства* ў 1246. Займала тэр. ўздоўж левага боку верхняга цячэння р. Ака (з яе прытокамі Угра, Жыздра і інш). Гарады К.к. (Звянігарад, Казельск, Масальск, Мезецк, Хацетава, Ялец) на працягу 14—пач. 15 ст. сталі цэнтрамі ўдзельных княстваў. Родапачынальнік карачаўскіх князёў — Мсціслаў Міхайлавіч, сын Міхаіла Усеваладавіча Чарнігаўскага. Пэўны час княства захоўвала сваю залежнасць ад Чарнігаўскага з яго новай сталіцай Бранскам. У пач. 14 ст. карачаўскія князі арыентаваліся на саюз з ВКЛ. У 1350-я г. К.к. трапіла ў залежнасць ад Вял. княства Маскоўскага, але пасля *бітвы каля Сініх Вод 1362* карачаўскія князі прынялі бок ВКЛ. Аб гэтым сведчыць, між іншым, шлюб Святаслава Карачаўскага з дачкой Альгерда. У адрозненне ад іншых вярхоўскіх князёў карачаўскія (акрамя ялецкага) не ўключыліся ў антытатарскую барацьбу, узначаленую вял. князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам. У 1395—96 Вітаўтам былі захоплены Карачаў, Масальск, Мезецк, Казельск. Але замацаваць уплыў на К.к. ВКЛ не ўдалося з-за паражэння ў *бітве на Ворскле 1399*. У час вайны *Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08* карачаўскія землі былі заняты Вітаўтам. К.к. было скасавана, яго ўладанні часткова перададзены тарускім князям (Мезецк з валасцямі), часткова далучаны непасрэдна да ВКЛ (Карачаў). Карачаўскія князі захавалі толькі рэшткі сваіх уладанняў (Масальск і Хацетава), апынуўшыся па большасці ў стане дробных князёў-васалаў. Амаль палову былога К.к. сканцэнтравалі ў сваіх руках князі Варатынскія. Карачаў вельмі хутка страціў сваё значэнне, у канцы 15 ст. не лічыўся нават горадам і быў вядомы як цэнтр воласці. У 1496 Карачаў перададзены «да волі» князю Сямёну Іванавічу Мажайскаму, у 1499 разам з Хоцімлем стаў яго вотчынай. У 1500 ён перайшоў на маскоўскі бок, а ў выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* Карачаў з рэшткамі Вярхоўскіх княстваў быў далучаны да Маскоўскай дзяржавы.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995.

***Віктар Цемушаў.***

**кардынал** (ад лац. cardinalis галоўны), у царкоўнай іерархіі каталіцкай царквы другі пасля папы рымскага тытул. Найбліжэйшыя саветнікі і памочнікі папы па кіраўніцтве царквой, маюць сан біскупа, назначаюцца папам і ўтвараюць калегію, якой належыць права выбару папы. Знакам кардынальскай годнасці з'яўляецца чырвоная сутана, якая сімвалізуе гатоўнасць К. праліць сваю кроў для абароны інтарэсаў царквы. Інстытут К. склаўся ў раннім сярэдневякоўі з ксяндзоў і дыяканаў гал. касцёлаў Рыма і прыгарадных біскупаў. З 1059 гэтыя асобы і выбіраюць на канклаве папу. У 1586 папа Сікст V вызначыў колькасць К. у 70 чал., Ян XXIII (1958—63) павялічыў да 90. У наш час каля 200 К., з іх больш за 120 з'яўляюцца выбаршчыкамі папы. Кандыдаты ў К., што не маюць біскупскага сану, павінны быць пасвячоны ў біскупы. К. служаць папе калегіяльна ці індывідуальна, удзельнічаюць у рабоце рымскай курыі. К. могуць быць і дыяцэзіяльныя біскупы, рэзідэнцыі якіх знаходзяцца па-за межамі Рыма. Званне К. звычайна маюць прымасы — кіраўнікі партыкулярных (мясцовых) каталіцкіх цэркваў асобных краін. У ВКЛ К. былі: мітрапаліт кіеўскі *Ісідор* (1439), біскуп віленскі, пасля кракаўскі Юрый (Ежы) *Радзівіл* (1583).

***Ігар Ганчарук.***

**Кардынальныя правы** (Leges cardinales), сістэма фундаментальных норм дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай у 16—18 ст., замацаваных у якасці абавязковых і непарушных прынцыпаў. Паходзяць з дактрыны аб дасканаласці існуючай будовы дзяржавы і недапушчальнасці ніякіх прынцыповых яе змен дзеля захавання сац. гармоніі. Прынцыпы К.п. закладзены ў 15 ст. ў Польшчы кампрамісам паміж кіруючымі грамадскімі станамі: каралём, сенатам (арыстакратыяй) і рыцарствам (шляхтай). Станы разглядаліся як раўнапраўныя, ніводзін з іх не мог прысвоіць абсалютнай улады без згоды астатніх. Сойм 1597 абвясціў злачынцам кожнага парушальніка агульнай згоды станаў. Сойм 1609 вызваліў ад паслушэнства каралю пры парушэнні ім сваіх абавязкаў. Сойм 1669 абавязаў наступныя соймы не дапускаць ніякіх рэформаў дзярж. ладу і кожнага, хто прапануе новаўтварэнні, абвяшчаць ворагам айчыны.

Асновы К.п. сфармуляваны ў 1572—73 у выглядзе *Пакта канвента* і *Генрыкавых артыкулаў*. У 1632 пры абранні на трон Уладзіслава IV Вазы гэтыя дакументы аб'яднаны ў адзін пакет і К.п. сталі канстытуцыйнымі палажэннямі, якім абавязкова прысягаў кожны кароль, абраны на трон. У далейшым каралеўская ўлада абмежавана пашырэннем *шляхецкіх вольнасцей*. Каралём мог быць толькі католік. Яму забаранялася павялічваць уласныя ўладанні за кошт агульнадзярж. зямель і замацоўваць іх у спадчыну без ведама сойма. Дзярж. маёнткі ён мог раздаваць у адміністрацыю і арэнду толькі аселай шляхце. К.п. рабілі шляхту пануючым саслоўем: давалі ёй правы асабістай недатыкальнасці, неабмежаванай вотчыннай улады над прыгоннымі, з правам смяротнага пакарання сялян, дазвалялі свабодна ўдзельнічаць у выбарах караля, соймавых паслоў з абмежаваннем іх паўнамоцтваў дэпутацкімі наказамі, вызвалялі ад прымусовай ваен. службы і падаткаў, а яе ўладанні — ад пазасудовай канфіскацыі і ваен. пастою. Прынцып выбарнасці каралёў (вольнай элекцыі) абвяшчаўся «галоўным фундаментам і маці вольнасці» шляхецкага стану. Кароль абвяшчаўся гал. гарантам унутрышляхецкай вольнасці: ён павінен быў сачыць за роўным доступам усёй шляхты да ўладных пасад і не дапускаць іх спадчыннага замацавання, не сумяшчаць у руках адной асобы некалькіх пасад, раздаваць годнасці і ўрады толькі на соймах па рэкамендацыі паслоў, абараняць «слабейшага ад уціску мацнейшага». Кароль абавязаўся без згоды сойма не ўводзіць замежных войск, не заключаць знешнепалітычных дагавораў, сачыць за непарушнасцю каталіцкай ве-

ры і асобага статуса прывілеяваных тэрыторый, не дапускаць яўрэяў да кіравання мытна-падатковымі справамі і не браць іх пад сваю пратэкцыю, выдаваць публічныя акты на польск. і лацінскай мовах, «а не якой іншай».

Пад выглядам барацьбы з пагрозай дынастычнага абсалютызму з боку выбарнага караля магнацкая алігархія выкарыстоўвала К.п. як сродак свайго панавання і захавання існуючага ладу. «Нямы» сойм 1717 абавязаўся свята выконваць «фундаментальныя артыкулы», у т.л. Пакта канвента. Сойм 1767—68 разгарнуў К.п. ў выглядзе 24 пунктаў, якія былі асобным актам далучаны да *дагавора 1768* з Расіяй. Паводле іх ніводны заканадаўчы орган Рэчы Паспалітай не мог самастойна парушаць тэр. цэласнасць дзяржавы. Абвяшчалася вечнасць уніі Польскага каралеўства і ВКЛ, а шляхецкія вольнасці — вечна непарушнымі. Дазвалялася пасяляць вольных людзей на пустых землях у дзярж. і шляхецкіх уладаннях. Кожны імігрант пасля 3-гадовага пражывання ў Рэчы Паспалітай атрымліваў правы абывацеля мяшчанскага або сялянскага стану. Усе некатолікі (дысідэнты) шляхецкага паходжання атрымлівалі доступ да свецкіх і духоўных пасад.

*Сойм 1773—75*, скліканы для ратыфікацыі ўмоў 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, 18.9.1773 асобным актам да трактата з Рас. імперыяй пацвердзіў К.п., але мадыфікаваў 4 пункты. Манархам Рэчы Паспалітай мог быць толькі католік-пяст (г.зн. паляк) з асяроддзя землеўладальнікаў. Яму забаранялася замацоўваць трон за сынамі і ўнукамі. Паміж соймавымі скліканнямі прадстаўляць інтарэсы шляхты павінна была *Пастаянная Рада*, пастановы якой не мелі канчатковай сілы.

*Чатырохгадовы сойм 1788—92* скасаваў пратэктарат Расіі над Рэччу Паспалітай, але не здолеў адмяніць К.п. на сесіях у вер. 1790. К.п. былі заменены *Канстытуцыяй 3 мая 1791*, якую кансерватыўная апазіцыя абвясціла дзярж. пераваротам. Абапіраючыся на запрошаныя рас. войскі, *Гарадзенскі сойм 1793* скасаваў рэформы Чатырохгадовага сойма і аднавіў К.п. ў выглядзе асобнай канстытуцыі («Forma rządowa») з 16 пунктаў. Паводле іх, быў скасаваны падзел Рэчы Паспалітай на Карону і ВКЛ і абвешчана «назаўсёды адзіная вольная і незалежная» дзяржава, аднак захаваліся правы і прывілеі ВКЛ, тытул вял. князя. Уводзілася смяротнае пакаранне за парушэнне тэр. цэласнасці дзяржавы і спробу узурпацыі ўлады. Заканадаўчая ўлада аддзялялася ад выканаўчай. Усім асобам шляхецкага стану вярталася права ўдзелу ў выбарах у сойм і мясц. сойм\u0456кі. Каталіцкая вера «абодвух абрадаў» (у т.л. уніяцтва) абвяшчалася вечна пануючай. Пераход з каталіцтва абодвух абрадаў у інш. веру разглядаўся як дзярж. злачынства і караўся выгнаннем за мяжу. Усе насельнікі дзяржавы, у т.л. імігранты, называліся падданымі Рэчы Паспалітай і мелі аднолькавыя падсуднасць, асабістыя і маёмасныя правы. К.п. абвяшчаліся навекі святымі, трывалымі, недатыкальнымі. У выпадку парушэння К.п. кароль або Пастаянная Рада маглі склікаць надзвычайны сойм для аднаўлення ранейшых парадкаў.

К.п. на ўсім працягу свайго існавання выконвалі кансерватыўна-ахоўную ролю і сталі адной з прычын скону дзяржавы. Разам з апошнім падзелам Рэчы Паспалітай (1795) адышлі ў нябыт і К.п.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 6—7. 2 wyd. Petersburg, 1860; Wegner L. Sejm Grodzieński ostatni. Poznań, 1886; Kutzeba S. Historja usroju Polski w zarysie. T. 1. 5 wyd. Lwów, 1920; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. 4 wyd. Warszawa, 1985; Ekes J. Złota demokracja. Warszawa, 1987.

***Яўген Анішчанка.***

**Карл X Густаў** (Karl X Gustav; 8.11.1622, Нючэпінг, Швецыя—13.2.1660), кароль Швецыі [1654—60]. Па бацьку паходзіў з нямецкай дынастыі Пфальц, па маці з дынастыі Васа (яго маці Кацярына Васа — дачка караля Швецыі Карла IX). Вучыўся ва ун-тах Упсалы і Парыжа. З 1642 афіцэр шведскага войска ў Германіі, з 1648 генералісімус. З 1650 у Швецыі. Пасля адрачэння каралевы Крысціны ад трона каранаваны 6.6.1654 як кароль Швецыі. К. X Г. належыць да найб. вядомых і славутых каралёў Швецыі. Браў удзел у шэрагу пасп\u044fховых войнаў супраць Рэчы Паспалітай, Даніі і Расіі (гл. *Паўночная вайна 1655—60*). Быў у Беларусі. На службу да К. X Г. перайшло шмат прадстаўнікоў эліты варожых



**Карл X Густаў.**

дзяржаў, сярод іх ліцвіны Януш і Багуслаў Радзівілы, лідэр укр. пратэстантаў Юрый Нямірыч, паляк Геранім Радзяёўскі, датчанін Корфіц Ульфелт. Згодна з *Кейданскім дагаворам 1655* К. X Г. быў абвешчаны вял. князем літоўскім. Гэты тытул мусіў захоўвацца за яго нашчадкамі. У жн. 1655—чэрв. 1656 быў фактычным уладаром шведскай часткі ВКЛ (Жамойць, Упіцкі, Вількамірскі, Браслаўскі і частка Ковенскага паветаў). Паводле Кейданскага дагавора да К. X Г. адышлі ўсе каралеўскія старасты на акупіраванай шведамі тэр. ВКЛ. Як вял. князь літоўскі раздаваў маёнткі вернай яму шляхце. Карыстаўся тытулам вял. князя літоўскага ў дыпламатычнай перапісцы з Расіяй. У лісце да цара Аляксея Міхайлавіча ад 29.1.1656 папярэджваў яго не «чапаць нашы гарады і мястэчкі» (Слуцк, Берасце, Юрбарк) і спыніць напады яго войск на «краіну нашай каралеўскай вялікасці» (ВКЛ). У сваёй палітычнай дактрыне кіраваўся прынцыпам «Dominium maris Baltici», што азначала панаванне Швецыі на Балтыйскім моры і ва Усх. Еўропе. Ратыфікаваў *Радноцкі дагавор 1656*, паводле якога Рэч Паспалітая павінна была знікнуць з палітычнай карты свету, вял. абшары ВКЛ (Жамойць, Ковенскі, Вількамірскі, Упіцкі, Браслаўскі паветы, часткі Полацкага і Віцебскага ваяводстваў уздоўж ракі Дзвіна) уваходзілі ў склад Шведскага каралеўства. Да Швецыі таксама адыходзіла Падляшша. 7—24.5.1657 К. X Г. асабіста кіраваў вой-

скамі антыпольскай кааліцыі ў складзе Швецыі, Трансільваніі, Прусіі, гетманскай Украіны, Б.Радзівіла ў аперацыі па аблозе Берасця, якое 16.5.1657 капітулявала. К. X Г. планаваў акупацыю і ліквідацыю Дацкага каралеўства, перанос ун-та з Капенгагена ў шведскі Гётэбарг, ссылку нелаяльнай дацкай шляхты ў Інгерманландыю. У 1658 здзейсніў дзёрзкі зімовы паход на Капенгаген. 26.2.1658 Данія падпісала мір са Швецыяй у г. Роскіле, паводле якога саступіла шэраг паўн. правінцый (сучасная паўд. Швецыя). У панаванне К. X Г. Швецыя здолела захаваць ізаляцыю Расіі ад Балтыйскага мора. Пад кіраўніцтвам К. X Г. Швецыя дасягнула піка сваёй магутнасці, стала «Імперыяй Паўночнай Еўропы». Балтыйскае мора ператварылася ва «ўнутранае шведскае возера».

*Літ.*: Roberts M. From Oxenstierna to Charles XII: four studies. Cambridge, 1991; Florén A., Dahlgren S., Lindegren J. Kungar och krigare: tre essäer om Karl X Gustav, Karl XI och Karl XII. Stockholm, 1992; Isacson C.-G. Karl X Gustavs krig: fälttågen i Polen, Tyskland, Baltikum, Danmark och Sverige, 1655—1660. Lund, 2002.

***Андрэй Катлярчук.***

**Карл XII** (Karl XII; 17.6.1682, г. Стакгольм—30.11.1718), кароль Швецыі [1697—1718], генеральны распарадчык у ВКЛ (Generosis Ordinibus in Magno Ducatu Lithvaniae, 1706—09). З дынастыі Пфальц, сын Карла XI. Атрымаў выдатную дамашнюю адукацыю. Скарыстаўшы маладосць К. XII, манархі Расіі, Даніі і Рэчы Паспалітай падрыхтавалі ў 1698—99 сумеснае нападзенне на Швецыю. У 1700 курфюрст саксонскі, кароль польскі і вял. князь літоўскі Аўгуст II без згоды сойма ўласнай саксонскай арміяй напаў на шведскую правінцыю Лівонію, Расія — на Інгерманландыю, Данія — на Памеранію. Пачалася *Паўночная вайна 1700—21*. На працягу чэрв. 1700—ліп. 1701 К. XII па чарзе ўшчэнт разбіў дацкага караля Фрэдэрыка IV, цара Пятра I (20.11.1700, Нарва) і Аўгуста II (9.7.1701, Рыга). Абарончая вайна перайшла ў наступальную. У вер. 1701 К. XII устанавіў сувязі з палітычнай апазіцыяй у ВКЛ (групоўка Сапегаў і пратэстанцкая шляхта). У сак. 1702 у в. Бетыгола каля Расейнаў адбылася 1-я сустрэча К. XII з К.Я.П. і Б.П. Сапе-



**Карл XII**.

гамі. 3.11.1703 у надрукаваным у Стакгольме маніфесце К.Я.П.Сапега абвясціў пра свой пераход з усімі ўладаннямі ў ВКЛ пад шведскую пратэкцыю. Згодна з планамі К. XII ВКЛ мусіла стаць саюзнай бувернай дзяржавай паміж Швецыяй і Украінскім гетманатам. Пры гэтым аднаўляўся стараж. шлях «з варагаў у грэкі», які злучаў Рыгу з рынкамі Усходу і рабіў Швецыю манапалістам рынку ўсх. тавараў у Еўропе. На чале ВКЛ мусіла стаць дынастыя Сапегаў. К.Я.П.Сапега падпісваў шведскія універсалы да насельніцтва ВКЛ як «князь Сапега» перад каралём Станіславам Ляшчынскім, чым выклікаў пратэсты апошняга. У 1702, 1706 і 1708 К. XII знаходзіўся разам з 35-тысячным шведскім войскам у ВКЛ. Станы караля былі ў Жалудку, Пінску, Смаргоні, Радашковічах, Магілёве, ён наведаў Вільню, Расейны, Коўна, Біржы, Кейданы, Мерач, Гародню, Саколку, Крынкі, Ліду, Ружаны, Бярозу, Слуцк, Маладзечна, Менск, Смілавічы, Чэрвень, Галоўчын, Чэрыкаў, Крычаў і інш. 29.1.1706 у Камянцы быў надрукаваны універсал К. XII, у якім ён абвясціў сябе «генеральным распарадчыкам у ВКЛ», гарантаваў шляхецкія свабоды і вольнасць веравызнання, надзейную ахову ад Расіі. З дапамогай свайго стаўленіка караля польскага і вял. князя літоўскага Станіслава Ляшчынскага К. XII стварыў у ВКЛ у 1704—08 прашведскаю сістэму ўлады. Ляшчынскім у ВКЛ былі прызначаны канцлер, гетманы вялікі і польны, ваяводы, якія пачалі барацьбу з дыгнітарыямі і ўраднікамі, што атрымалі свае пасады ад Аўгуста II і падтрымлівалі палітыку Масквы. Гэтыя крокі прывялі да анархіі і ўзмацнення унутраных сутычак. З дапамогай Сапегаў К. XII змагаўся супраць прарасійскіх магнацкіх груповак Агінскіх і Радзівілаў, накладаў цяжкія кантрыбуцыі на іх прыватныя гарады, захапіў Нясвіж, Мір, Ляхавічы, Ліду, Трокі, Клецк і разбурыў там замкі. К. XII падтрымліваў фінансава і палітычна лютэранскую і кальвініскую цэрквы ВКЛ, удзельнічаў у сінодах Літоўскай яндноты ў Слуцку і Кейданах. Пад уплывам К. XII 15.4.1708 у Радашковічах шэраг магнатаў і шляхціцаў ВКЛ і Польшчы перайшлі ў лютэранства. 3—4.7.1708 К. XII разбіў каля мяст. Галоўчын пераўзыходзячае рас. войска на чале з Б.Шарамецевым. Гэта была апошняя буйная перамога Швецыі ў Паўн. вайне. К. лічыў яе «сваёй лепшай і любімай перамогай». З гэтай нагоды ў Швецыі былі надрукаваны 4 рэляцыі і выбіты медаль з надпісам «Пераможаны лясы, балоты і вораг». Захавалася значная колькасць лістоў К. XII з ВКЛ, дзе ёсць звесткі пра бел. гарады, надвор'е і інш. 28.6.1709 К. XII пацярпеў паражэнне ад Пятра I пад Палтавай. 22.7.1709—2.11.1714 К. XII знаходзіўся з рэшткамі войска і ўкр. казакамі І.Мазепы і П.Орліка ў Турцыі (Бендэры, цяпер Малдова). Рыхтаваў сумесны паход Швецыі, Украіны, Турцыі і Крымскага ханства на Расію. 11.11.1714 вярнуўся ў Швецыю. Жыў у Лундзе, рыхтаваў вайну супраць Даніі для захопу Нарвегіі. Забіты невядомым каля муроў нарвежскага замка Фрэдэрыксгаль. У выніку знешняй палітыкі К. XII Швецыя апынулася ў глыбокім эканам. і палітычным крызісе і страціла пасля Ніштадскага міру 1721 больш за 25% тэрыторыі. Са смерцю К. XII у шведскай гісторыі скончыўся «перыяд магутнасці» (1561—1718). Краіна перастала быць вял. дзяржавай, адмовілася ад актыўнай знешняй палітыкі і засяродзілася на ўнутраных праблемах.

*Літ.*: Liljegren B. Karl XII: En biografi. Lund, 2000; Катлярчук А. Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў. Мн., 2002.

***Андрэй Катлярчук.***

**Карма** (цяпер горад, цэнтр Кармянскага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска ў Рэчыцкім пав. Менскага ваяв. У 17 ст. шляхецкая ўласнасць. Упамінаецца ў 1696 у каптуровай кнізе Рэчыцкага пав. ў сувязі з перадачай на вечнае карыстанне старастам Рэчыцкага пав. «двара ў Карме» рэчыцкаму гарадскому пісару Паўлу Квялчэўскаму. У 1726 упамінаецца ў інвентары Чачэрскага старасства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Кармянскага р-на. Мн., 2003.

**кармеліты абутыя**, манахі каталіцкага жабрацкага ордэна Найсвяцейшай Дзевы Марыі з гары Кармель (лац. Ordo fratrum Beatissimae Mariae Virginis de Monte Carmelo, OC, OCarm.). Заснаваны ў сярэдзіне 12 ст. ў Палесціне ў час крыжовых паходаў. Першыя пустэльні (скіты) кармелітаў узніклі ў горным масіве Кармель (адсюль і назва). Кананічны арганізатар кармелітаў — крыжак Бертольд з Калабрыі, па просьбе якога іерусалімскі патрыярх Альберт у 1209 распрацаваў статут ордэна (зацверджаны папам Ганорыем III у 1226). Манахі павінны былі жыць у асобных келлях, у паслушэнстве, беднасці, чысціні, маўчанні, шчырым посце. З сярэдзіны 13 ст. кляштары К.а. узнікалі ў Еўропе, у канцы 13 ст. К.а. пакінулі Палесціну. У 1247 папа Інакенцій IV прызнаў кармелітаў жабрацкім ордэнам. Кармеліты вял. намаганні прыклалі да развіцця марыйнага культу. Патранальнае свята Маці Божай Шкаплернай — 16 ліп., у 1587 зацверджана для ордэна, у 1726 — для ўсёй каталіцкай царквы. Пасля вылучэння *кармелітаў босых* манахаў, якія захавалі стары статут, пачалі называць К.а. У 1397 пражскія кармеліты былі запрошаны Ягайлам і Ядвігай у Кракаў. У ВКЛ першы касцёл кармелітаў пад назвай Найсвяцейшай Дзевы Марыі Снежнай і св. Юрыя (Георгія) у Вільні заснаваны канцлерам ВКЛ М.Радзівілам у гонар перамогі ў *Клецкай бітве 1506*. Кляштары ўзніклі ў Мсціславе (каля 1620, фундатар староста мсціслаўскі Крыштоф Сапега), Бялынічах ( фундатар ваявода віленскі Л.Сапега), Вільні (абодва 1624, фундатар каралеўскі сакратар Войцех Хлудзінскі), Княжыцах (1632, фундатар Ганна Сапега), Магілёве (1633, фундатар кароль Уладзіслаў IV), Лінкаве ў Жамойці (1634, фундатар біскуп Ежы Тышкевіч), Уладзіслававе (1642, фундатар біскуп Тышкевіч), Бельску (1-я пал. 17 ст., фундатар каштэлян сандамірскі Адам Казаноўскі), Чавусах (2-я пал. 17 ст., фундатар падстараста магілёўскі Мікалай Падбіпята), Ішчалне (1670), Лідзе (1674), Пампянах (1675), Халопенічах (1676), Крупчыцах (1676, фундатар Андрэй Асоўскі), Жалудку (1682), Калесніках (1703, фундатар Канстанцін Ян Кунцэвіч), Менску (1704, фундатар стольнік менскі Антоні Тэадор Ванькові ч), Засвіры (1714, фундатары Крыштоф і Ядвіга Зяновічы), Радамлі (1717, фундатары Міхал Сухадольскі і Кароль Мадалінскі), Расіенах (1720, фундатар — лоўчы жамойцкі Якуб Ежы Довят), Хвалойнях каля Крожаў (1738), Стайках (1759) і інш. Вял. колькасць кляштараў К.а. прыняла да стварэння ў 1687 Малапольска-Літоўскай правінцыі (Візітацыі Найсвяцейшай Дзевы Марыі) з цэнтрам у Кракаве, якая ахапіла 15 кляштараў, і Рускай (св. Іосіфа) правінцыі ордэна, куды ўвайшлі 17 кляштараў. У 1756 з Рускай правінцыі вылучана Літоўская (Беларуская) правінцыя пад патранатам св. Георгія. У 1766 створана новая Літоўская правінцыя (Усіх Святых) з цэнтрам у Вільні, якая ахапіла 15 кляштараў. Атрымалі вядомасць школы К.а. у Вільні, Радамлі, Крожах і Хвалойнях і інш. Існуе жаночая галіна ордэна, кляштары кармелітак дзейнічалі ў Львове, Дубне і інш.

*Літ.*: Wołyniak [Giżycki J.M.]. Z przeszłości karmelitów na Litwie i Rusi. T. 1—2. Kraków, 1918; Дзярновіч А. Ордэн Шчаснай Панны Марыі з гары Кармэль // Наша ніва. 1992. № 8; Zieliński J. Obrazy maryjne z kresów wschodnich w karmelitańskich kościołach. Kraków, 1997; Яцкевіч З. Звесткі па гісторыі кармеліцкіх кляштараў Беларусі ў матэрыялах Кракаўскага архіва // Вяртанне. Мн., 1999. Вып. 6.

**кармеліты босыя**, манахі каталіцкага жабрацкага манаскага ордэна (Ордэн босых кармелітаў, лац. Ordo Carmelitarum Discalceatorum, OCD). Вылучыліся ў 2-й пал. 16 ст. з *кармелітаў абутых* у выніку рэфарматарскай дзейнасці іспанскай кармеліткі Тэрэзы Авільскай. Статут К.б. адрозніваўся больш жорсткімі патрабаваннямі да манахаў. У 1580 папа Грыгорый XIII зацвердзіў становішча К.б. як аўтаномнай кармеліцкай правінцыі, а як самастойны ордэн К.б. абвешчаны папам Клементам VIII у 1593. Манахаў нерэфармаваных кармеліцкага ордэна з гэтага часу называлі *кармелітамі абутымі.* У Рэчы Паспалітай К.б. з'явіліся ў 1604 па дарозе ў Персію. Першы кляштар узнік у 1605 у Кракаве, пасля з'явіліся ў Вільні (1624, 1739), Глыбокім (1639), Гародні (1650), Коўне (1708), Анталептах каля Коўна (1731), Мядзеле (1734), Пінску (1734), Пашумені каля Ашмян (1760), Гудагаі (1764). У 1617 узнікла Польская правінцыя ордэна, у 1731 вылучана Літоўская правінцыя пад патранатам св. Казіміра (скасавана ў 1844). Праводзілі душпастырскую дзейнасць, пашыралі марыйны культ (некаторы час апякалі *Вастрабрамскі абраз Маці Божай* у Вільні), трымалі школы і шпіталі. Існуе жаночая галіна ордэна, кляштары кармелітак дзейнічалі ў Вільні (1638), Львове (1641) і інш.

*Літ.*: Wanat B.J. Zakon karmelitów bosych w Polsce: Klasztory karmelitów i karmelitanek bosych 1605—1975. Kraków, 1979; Brykowska M. Architektura karmelitów bosych w XVII—XVIII wieku. Warszawa, 1991; Račiūnaitė T. Vizijos ir atvaizdai: Basųjų karmelitų palikimas. Vilnius: Vilniaus dailės akademijos leidykla, 2003.

**кароль**, манархічны тытул. Традыцыйна этымалогію слова К. выводзяць з лац. формы імя Карла Вялікага — Carolus (8—9 ст.); паводле інш. версіі, паходзіць з прагерманскага karla (стары, старэйшына). Скандынаўскія крыніцы і хроніка Пятра Дусбурга ўпершыню на землях Беларусі называюць К. (konung, rex) полацкіх князёў, якія рэальна былі вярхоўнымі ўладарамі ў сваім княстве і ўспрымаліся адпаведна вярхоўнымі сюзерэнамі. 6.7.1253 тытул К. прыняў уладар ВКЛ *Міндоўг*. Ён каранаваўся ў Новагародку каронаю, якую атрымаў ад рымскага папы як узнагароду за хрышчэнне ў каталіцтва. Дэзарганізацыя дзяржавы і дынастыі, як вынік змовы феад. знаці, не дазволіла замацаваць тытул К. за наступнымі ўладарамі ВКЛ. У 1428—30 вял. князь *Вітаўт* рабіў захады, каб прыняць тытул К. ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі — намінальнага свецкага галавы ўсяго зах.-хрысціянскага свету. Гэта выклікала супрацьдзеянне польскай эліты, якая перашкодзі-

ла каранацыі. У 1386 вял. князь літоўскі *Ягайла* стаў польскім К., адначасова захаваўшы тытул вял. князя літоўскага. Таксама польскімі каралямі былі вял. князь *Казімір IV* Ягелончык, *Аляксандр*, *Жыгімонт I* Стары, *Жыгімонт II Аўгуст*. З утварэннем Рэчы Паспалітай (1569) тытулы К. польскага і вял. князя літоўскага сталі састаўнымі часткамі аднаго тытула. К. ў Польшчы з 14 ст., а пазней у Рэчы Паспалітай, выбіраліся соймам, існавала тэндэнцыя іх абрання з адной дынастыі (*Ягелонаў*, *Вазаў*, *Вецінаў*). У час каранацыі ў кафедральным касцёле Вавельскага замка ў Кракаве К. атрымліваў ад арцыбіскупа гнезненскага знакі ўлады — залатую карону, скіпетр, яблык (залаты шар з крыжам), каралеўскі меч і пярсцёнак. К. з'яўляўся найвышэйшым суддзёй, узначальваў войска ў час паходаў, быў кіраўніком знешняй палітыкі. У Рэчы Паспалітай улада К. была значна абмежавана шляхтаю праз вальны *сойм*.

*Алег Дзярновіч.*

**карона** (ал лац. corona вянок, вянец), 1) урачысты галаўны ўбор, які з'яўляецца сімвалам улады, найчасцей манархічнай. Паходзіць ад антычных лаўровых вянкоў, візантыйскіх дыядэм. Перанята ад каралінгскіх уладароў, потым ад імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі большасцю еўрап. манархаў і ўвайшла ў склад каралеўскіх рэгалій. У канцы 1-га тыс. н.э. ўсталявалася традыцыйная форма К.: залаты абруч, упрыгожаны каштоўнымі камянямі, увенчаны яблыкам з крыжам, што трымаюцца на дугах. К. сімвалізуе суверэнітэт манарха, яго ўладу і прэрагатывы. Органы кіравання, якія прызначаліся манархам і дзейнічалі ад яго імя, называліся кароннымі. К. вял. князя літоўскага ў 16 ст. ўяўляла сабою абруч, упрыгожаны каштоўнымі камянямі, з 2 перакрыжаванымі дугамі і крыжам з каштоўных камянёў на дузе; знутры была падбіта аксамітам. Выява К. ВКЛ змешчана на тытульным лісце Статута ВКЛ 1588. На галаву вял. князя літоўскага К. ўскладалася ў час каранацыі ў Віленскім кафедральным касцёле святых Станіслава і Уладзіслава (цырымонія адбывалася ў 1392, 1492, 1506, 1529, магчыма, у 1440). Каранатарамі адначасова з'яўляліся віленскі біскуп, які вянчаў галаву К., і маршалак гаспадарскі, які ўручаў меч. Велікакняжацкая К. ўваходзіла ў сімвалы ўлады і захоўвалася ў віленскім Верхнім замку. У сувязі са спробай Вітаўта каранавацца каралём (1428—30) імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі паслаў у Вільню каралеўскую К., але, паводле звестак Я.Длугаша, яна была захоплена палякамі і пасечана. Пазней з яе частак нібыта зрабілі К. кракаўскага біскупа. Каралеўская К. Вітаўта згадваецца таксама ў дакументах Метрыкі ВКЛ за 1526, паводле якіх Жыгімонту Старому прапанавалася каранаваць Жыгімонта Аўгуста на трон ВКЛ менавіта ёю. Вылучаюцца таксама пахавальныя (фунеральныя) К. Такая К. была знойдзена ў Віленскім кафедральным касцёле ў саркафагу караля і вял. князя Аляксандра. К. магла быць элементам каталіцкіх, уніяцкіх і правасл. абразоў, часткаю іх абкладаў. Адмысловаю К. каранаваліся найб. шанаваныя цудадзейныя абразы. Каранаванне абразоў — асобны ўрачысты абрад (напр., каранаванне абраза Жыровіцкай Маці Божай 19.9.1730). 2) Назва ўласна Польшчы, у адрозненне ад ВКЛ.

*Літ.*: Morelowski M. Korona i hełm znalezione w Sandomierzu a sprawa korony Witolda i grobowców dynastyczych w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1930. Z. 3—4; Kosman M. «Podniesiene» książąt litewskich // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1976. T. 10.

*Алег Дзярновіч.*

**каро́нчык**, народная назва двухзалатоўкі (8 сярэбраных грошаў). Намінал 2 злотыя ўведзены ардынацыяй 1766, пры пробе 625 праміле меў лігатурную масу 9,35 г, прыраўноўваўся да $^1/_4$ талера. На Беларусі назва «К.» зафіксавана на Навагрудчыне ў 1-й пал. 19 ст.

*Літ.*: Каратынскі В. Таміла // Каратынскі В. Творы. 2 выд. Мн., 1994.

*Іван Сінчук.*

**Кароткі** Уладзімір Георгіевіч (н. 18.12.1955, г.п. Мір Карэліцкага р-на), беларускі літаратуразнавец-медыявіст. Канд. філал. навук (1984). Скончыў БДУ (1979). З 1982 працаваў у Ін-це л-ры АН Беларусі, з 1987 у БДУ (у 1989—95 намеснік дэкана філалагічнага факультэта, у 1993 загадчык кафедры гісторыі і тэорыі л-ры, у 1994—2000 — кафедры гісторыі бел. л-ры). Даследуе палемічную л-ру Беларусі, Украіны, Польшчы 16—17 ст., творчасць М.Сматрыцкага, П.Скаргі, І.Пацея, І.Руцкага, Л.Карповіча і інш., праблемы ўзаемасувязей, элітарнасці і развіцця маст. кірункаў і стыляў. Увёў у навук. ўжытак шэраг гіст. дакументаў па айч. гісторыі 17 ст. Складальнік і аўтар каментарыяў кн. «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны» (Мінск, 1991), адзін з аўтараў падручнікаў «Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд» (4 выд. Мінск, 1998), «Беларуская літаратура, XI—XX стст.» (Мінск, 1999), кнігі «Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX ст.» (т. 1, 2006). Пераклаў на сучасную бел. мову «Аповесць мінулых гадоў», сачыненні Уладзіміра Манамаха, «Трэнас» М.Сматрыцкага, творы Кірылы Тураўскага, В.Цяпінскага.

*Тв.*: Творческий путь Мелетия Смотрицкого. Мн., 1987; Праблема элітарнасці ў беларускай літаратуры другой паловы XVI—першай паловы XVII ст. // Шляхам стагоддзяў. Мн., 1992; Унія ад Пятра Скаргі // Весн. БДУ. Сер. 4. 1993. № 3; Феномен двайніцтва ў старажытнай літаратуры ўсходніх славян // Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай. Мн., 2000. Ч. 1; Асветны манарх і манархія ў разуменні Льва Сапегі // Мастацкі вобраз: генезіс, эвалюцыя, сучасны стан. Брэст, 2001; З духоўных крыніц нашай мінуўшчыны // Старажытная беларуская літаратура. 3 выд. Мн., 2002; Контрправаслаўе як феномен духоўнай культуры Беларусі // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры. Мн., 2003. Вып. 4.

**Карпач** Іван Ільіч (?—26.2. 1744), адзін з кіраўнікоў сял. антыфеадальнага руху ў Крычаўскім старастве ў 1-й пал. 18 ст. Сын крычаўскага рамесніка-гарматніка. Складаў скаргі сялян на самавольства арандатараў і адміністрацыі старасства, не раз сам дастаўляў іх уладальніку старасства Радзівілу ў Мір, Нясвіж, Гародню. У сярэдзіне 1720-х г. пераехаў на жыхарства ва Углянскае войтаўства, дзе сяляне найб. актыўна выступалі супраць прыгнятальнікаў, заснаваў там в. Карпачы. Раз'язджаў па вёсках Углянскага і Бярозаўскага войтаўстваў, заклікаў сялян смялей выступаць супраць адміністрацыі старасства, не выконваць павіннасцей, не падпарадкоўвацца дзяржаўцу. У снеж. 1718 арганізаваў выступленне сялян супраць замкавай адміністрацыі, за што быў арыштаваны і пасаджаны ў крычаўскую турму. З 1741 уваходзіў у склад крычаўскага магістрата (бур-

містр). Быў адным з кіраўнікоў масавых сял. хваляванняў у старастве і ў час *Крычаўскага паўстання 1743—44*. Пасля разгрому паўстання пакараны смерцю (пасаджаны на кол).

*Літ.*: Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982.

***Васіль Мялешка.***

**Карпачоў** Яфрэм (Афраім) Майсеевіч [27.6(10.7).1914, г. Трубчэўск Арлоўскай губ.—18.8.1988], беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1970). Скончыў Варонежскі пед. ін-т (1937). У 1940—41 дырэктар Цэнтр. дзярж. архіва Літ.ССР. Удзельнік Вял. Айч. вайны. З 1946 дырэктар Цэнтр. дзярж. архіва Кастр. рэвалюцыі БССР, у 1953—85 старшы навук. супрацоўнік, заг. сектара, навук. кансультант Ін-та гісторыі АН БССР. Вывучаў сац.-эканам. развіццё гарадоў Беларусі 17—18 ст. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1961; т. 1, 1972), «Гісторыі Мінска» (1967).

*Тв.*: Мануфактура с принудительным трудом и ее значение в развитии капитализма // Вопр. истории. 1962. № 8; Феодальные юридики в королевских городах Белоруссии XVII—XVIII вв. // Сов. славяноведение. 1968. № 6; Міста і містечка Білорусії у другій половині XVIII ст. // Український іст. журнал. 1968. № 9; Узнікненне і развіццё Слуцкай вотчыннай мануфактуры шаўковых паясоў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 3.

***Гелена Чарняўская.***

**Карпінскі** Іларыён (?—да 1765), географ. Базыльянін. Пасмяротна ў Вільні ў 1766 яго брат (таксама базыльянін) Нікадзім выдаў вялізную працу К. «Геаграфічны лексікон для грунтоўнага разумення газет і гісторыі з розных аўтараў сабраны, перакладзены і напісаны» («Lexykon geograficzny dla gruntownego pojęcia gazet i historii z rożnych awtorow zebrany, przetłumaczony i napisany») — першы ў ВКЛ і Польшчы геаграфічны слоўнік, які вызначаў фізіка-геаграфічныя аб'екты, краіны, населеныя пункты, утрымліваў гіст. інфармацыю. Пры апісанні населеных пунктаў К. адзначаў наяўнасць культавых будынкаў, рэлігійныя адносіны. Хоць К. быў прыхільнікам геацэнтрызму, яго кніга адыграла значную ролю ў распаўсюджанні ў ВКЛ навук. ведаў пра Зямлю. Упершыню ў «Геаграфічным лексіконе» прыведзена размяшчэнне Белай, Чорнай і Чырвонай Русі амаль у тым выглядзе, які замацаваўся ў 19 ст. (Белая — усх. ваяводствы ВКЛ, Чорная — Навагародскае і Менскае ваяв., Чырвоная — Украіна).

*Літ.*: Decyk W. *Leksykon geograficzny* Hilariona Karpińskiego (Wilno, 1766) jako przedmiot badań historyczno-językoznawczych: Zarys problematyki // Prace filologiczne. Warszawa, 2002. T. 47.

**Карпінскі** (Karpiński) Францішак (4.10.1741, в. Галаскоў на Каламыйшчыне, Украіна—16.9.1825), паэт,



Ф.**Карпінскі**.

адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму. Скончыў езуіцкі калегіум у Львове (1762). З 1780 у Варшаве. У 1781—82 наведаў Гародню і Вільню. З 1793 больш за 30 гадоў арандаваў на Гарадзеншчыне і Пружаншчыне фальваркі, у 1819 набыў фальварак Хораўшчына ў Ваўкавыскім павеце. Вучыў дзяцей сялян грамаце. Бываў у Свіслацкай гімназіі, у 1806 падараваў ёй свой кнігазбор. Падзяляў і пашыраў ідэі Ж.Ж.Русо, ідэалізаваў «несапсаванасць нораваў» у вёсцы. Аўтар ідылій, лірычных вершаў, абразкоў і перакладаў, сабраных у «Забаўках вершам і прозай» («Zabawki wierszem i prozą», т. 1—7, Варшава, 1782—87). У камедыі «Чынш» («Czynsz», Варшава, Кракаў, 1790) заклікаў да вызвалення сялян ад паншчыны. У Гародні выдадзены яго кнігі «Вяртанне з Варшавы ў вёску» («Powrót z Warszawy na wieś», 1784), «Размова Платона са сваімі вучнямі» («Rozmowy Platona z uczniami swoimi», ч. 1, 1802). У аўтабіяграфічных дзённіках (1822, вытрымалі 6 выданняў) апісаў жыццё ў Беларусі. Згуртаваў вакол сябе мясцовых літаратараў (І.Храптовіч, С.Клакоцкі, А.Хадкевіч). У сваіх творах выкарыстоўваў матывы бел. фальклору. Архіў К. зберагаўся ў К.Прозара ў Хойніках, потым часткова ў А.Ельскага ў Замосці (цяпер Пухавіцкі р-н). Пахаваны К. ў в. Лыскава Пружанскага р-на.

*Тв.*: Dzieła. T. 1—4. Warszawa, 1806; Pamiętniki. Warszawa, 1898; Historia mego wieku i ludzi, z którymi żyłem. Warszawa, 1987.

*Літ.*: Kostkiewiczowa T. Model liryki sentymentalnej o twórczości Franciszka Karpińskiego. Wrocław etc., 1964; Kwaśniewska-Mżyk K. Język Franciszka Karpińskiego. Warszawa; Wrocław, 1979; Sobol R. Franciszek Karpiński. 2 wyd. Warszawa, 1987; Chachulski T. Franciszek Karpiński. Warszawa, 1998.

***Адам Мальдзіс.***

**Карповіч** Лявонцій, гл. *Лявонцій*.

**Карповіч** (Karpowicz) Марыюш (н. 20.1.1934, в. Чомбраў Навагрудскага пав.), польскі гісторык мастацтва. Д-р габілітаваны (1966), праф. (1979). Скончыў Варшаўскі ун-т (1955). З 1955 працуе ў Ін-це гісторыі мастацтва Варшаўскага ун-та. Выкладаў ва ун-тах Польшчы, Італіі, Швейцарыі. Даследуе мастацкую культуру Рэчы Паспалітай 16—18 ст., архітэктуру 16—18 ст. Польшы і ВКЛ, польска-італьянскія і польска-швейцарскія мастацкія сувязі 16—18 ст., праблемы аховы гіст.-культ. спадчыны. Акадэмік Акадэміі Кліменціна ў Балонні (1978), Акадэміі Міцкевічыяна ў Балонні (1979), правадзейны чл. Варшаўскага навук. т-ва (1982), ганаровы акадэмік Ін-та мастацтва Ламбардыі ў Мілане (1987). З 1993 эксперт Савета Еўропы па пытаннях гісторыі мастацтва і аховы помнікаў культуры (Страсбур).

*Тв.*: Działalność artystyczna Michelangela Palloniego w Polsce. Warszawa, 1967; Sztuka oświeconego sarmatyzmu: Antykizacja i klasycyzacja w środowisku warszawskim czasów Jana III. Warszawa, 1970 (2 wyd. 1986); Jerzy Eleuter Siemiginowski malarz polskiego baroku. Wrocław etc., 1974; Sztuka polska XVII wieku. Warszawa, 1975 (2 wyd. 1983); Sztuka polska XVIII wieku. Warszawa, 1985; Barok w Polsce. Warszawa, 1988 (2 wyd. 1991); Baltazar Fontana. Warszawa, 1994.

**Карповіч** Міхал Францішак (4.10. 1744, мяст. Камянец Берасцейскага ваяв.—5.11.1803), асветнік, прамоўца, педагог. У 1757—61 вучыўся ў Берасцейскім езуіцкім калегіуме. У 1761 уступіў у манаскі ордэн місіянераў. З 1767 выкладаў філасофію ў Варшаўскай семінарыі, з 1771 — тэалогію ў Кракаве, у 1772—74 — тэалогію і царк. гісторыю ў Віленскай семінарыі. У 1774 пакінуў ордэн, а ў 1775 дзякуючы падтрымцы віленскага біскупа І.*Масальскага* стаў пробашчам у Гражышках на Сувальшчыне. Набыў шырокую вядомасць сваімі казаннямі, асабліва перад адкрыццём Трыбунала ВКЛ у Гародні (1775—84), на імяніны ўплывовых асоб, з нагоды юбілейнага года. Адзін з першых на Беларусі ў духу Асветніцтва і з пазіцый фізіякратызму пачаў крытыку прыгону і жорсткага абыходжання паноў з сялянамі, прапаноўваў іх перавод на чынш, увядзенне парафіяльных школ. Погляды К. сустрэлі падтрымку рэфарматараў і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. К. атрымаў пасады архідыякана смаленскага (1776), пробашча прэнскага (1778), каноніка пазнанскага (1783), медаль «Заслужаным» (1778). З 1783 праф. дагматычнай тэалогіі ў Гал. школе ВКЛ у Вільні. Быў прыхільнікам *Канстытуцыі 3 мая 1791*. У час *паўстання 1794* увайшоў у паўстанцкі ўрад — *Найвышэйшую літоўскую раду*, пасля — у *Найвышэйшую нацыянальную раду* (намеснік радцы ў аддзеле інструкцыі). Пасля падаўлення паўстання жыў у Варшаве, быў звольнены з прафесарскай пасады. У 1797 прускімі ўладамі прызначаны біскупам віграўскім. У Віграх заснаваў духоўную семінарыю. У Гражышках сабраў багатую бібліятэку.

*Тв.*: Kazania w różnych okolicznościach miane. T. 1—3. Kraków, 1806; Kazania i inne dzieła. T. 1—3. Warszawa, 1807—08; Kazania. T. 1—8. Warszawa, 1808—14.



М.Ф.**Карповіч**.

**Карпы**, шляхецкі род уласнага герба (тры 6-прамянёвыя залатыя зоркі ў блакітным полі). Паводле легенды, паходзілі ад італьянскага рода Карпіо. Першы вядомы прадстаўнік роду — гаспадарскі дваранін Карп Есіпавіч, якому ў 1522 вял. князь Жыгімонт Стары даў Ятвезскае і Забельскае войтаўствы; валодаў маёнткамі ў Троцкім пав. Ад яго ўнукаў Юзафа і Мікалая пайшлі 2 лініі К.: старэйшая (родавае гняздо — Бярозавае, мелі маёнткі ў Падляшскім і Новагародскім ваяв.; згасла ў 17 ст.) і малодшая (родавае гняздо — Рыкіёў, мелі маёнткі ў Троцкім ваяв. і Жамойці). Са старэйшай лініі паходзілі ваўкавыскія маршалкі бацька і сын Юзаф (?—пасля 1637) і Стафан. Найб. вядомыя:

Юзаф Міхал (Іазафат Міхал; каля 1679—10.12.1739), сын Стафана Казіміра. Падстолі смаленскі ў 1703—20, сакратар канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла ў 1706—09. У *Паўночную вайну 1700—21* перайшоў на бок Станіслава Ляшчынскага і ў 1707 быў вымушаны пакінуць ВКЛ. Сакратар Ляшчынскага ў 1708—11, пры ім быў фактычна канцлерам, замяшчаў адсутнага Радзівіла. У 1714 удзельнічаў у пасольстве да Пятра І, мэтай якога было атрымаць падтрымку цара ў дэтранізацыі Аўгуста II. З 1719 святар, віленскі канонік (1720), кусташ (1722), пробашч троцкі, прэпазіт гарадзенскі (1735). У 1724—36 вял. духоўны сакратар ВКЛ. Выступаў супраць абсалютысцкіх планаў Аўгуста II. У час бескаралеўя 1733 падтрымліваў кандыдатуру на трон Станіслава Ляшчынскага. З 1736 біскуп жамойцкі. Валодаў мяст. Бездзеж у Пінскім пав., маёнткамі ў Жамойці.


Да арт. **Карпы**. Ю.М.Карп.

Ян Зыгмунт (каля 1680—каля 1740), сын Уладзіслава. У час Паўн. вайны 1700—21 ваяваў супраць шведаў у Жамойці і Курляндыі, з 1710 палкоўнік, з 1720 генеральны крыгскамісар (гал. кватэрмайстар) войска ВКЛ.

Бенядзікт (1734—12.6.1805), сын Якуба Ігнацыя. Харужы упіцкі з 1765. Належаў да групоўкі Чартарыйскіх. У 1764 удзельнічаў у абранні на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пасол на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*. У час *паўстання 1794* увайшоў у склад *Найвышэйшай Літоўскай рады*, потым прызначаны Т.Касцюшкам у *Цэнтральную дэпутацыю Вялікага княства Літоўскага* (чл. аддзела парадку). Зрабіў вял. ахвяраванні на мэты паўстання. Пасля падзення Вільні пераехаў у Коўна, далейшы лёс невядомы.

Маўрыцый Францішак (1749—22.10.1817), сын Юзафа. Вучыўся ў Кракаве, падарожнічаў па Англіі, Францыі і Італіі. Стаў вял. прыхільнікам Ж.Ж.Русо і пераклаў на польскую мову яго твор «Заўвагі пра польскі лад» (Варшава. 1789). Свае погляды выкладаў у друкаваных паасобку ананімных лістах і брашурах, дзе крытыкаваў шляхту за бяздзейнасць і сваркі, выступаў за наданне сялянам права набываць зямлю, апеку над сялянамі з боку судоў, выказваўся за ўвядзенне парафіяльных шляхецкіх соймікаў, якія б выбіралі дэпутатаў на павятовыя соймікі. Аднак не давяраў мяшчанству і лічыў неабходным аддзяленне гарадоў ад працэсу заканадаўства. З 1790 па-



Да арт. **Карпы**. М.Ф.Карп.

сол на Чатырохгадовы сойм 1788—90, дзе прапагандаваў свае погляды, выступаў за захаванне выбарчых правоў немаёмнай шляхты і вайскоўцаў і супраць надання такіх правоў мяшчанам. Падтрымаў *Канстытуцыю 3 мая 1791*. У час паўстання 1794 увайшоў у склад Найвышэйшай Літ. рады, пасля ў Цэнтр. дэпутацыі ВКЛ (чл. аддзела нац. паўстання). З 1797 чл. Адукацыйнай камісіі ў Вільні. Пісаў вершы, працы па гісторыі стараж.-рымскай і сусветнай гісторыі, філасофскія трактаты, аповесці.

*Літ.*: Meysztowicz A. Karpowie herbu własnego. Wilno, 1907.

***Валерый Пазднякоў.***

**Карскі** Мацей (24.2.1662, Добжынская зямля, Польшча—10.2.1717), прававед, філосаф. З 1680 езуіт. Вучыўся ў навіцыяце ў Вільні (з 1680), праходзіў курсы філасофіі ў Віленскай акадэміі (1683—86), паэзіі і рыторыкі ў Полацкім езуіцкім калегіуме, тэалогіі і права ў Варшаве (1689—93). Па рэкамендацыі выкладчыка права А.Краснадэмбскага К. была даручана падрыхтоўка новага польскамоўнага выдання Статута ВКЛ 1588 (Вільня, 1693). Дзякуючы гэтай працы К. набыў у ВКЛ вядомасць «знаўцы айчынных законаў». Выкладаў рыторыку ў Плоцку (1688—89, 1693—94) і Варшаве (1694—95), філасофію ў Полацку (1696—99). Абараніў дактарскую дысертацыю па тэалогіі ў Віленскай акадэміі. Выкладаў кананічнае права і тэалогію ў Варшаўскім калегіуме (1700—08). У час Паўн. вайны 1700—21 падтрымліваў Станіслава Ляшчынскага. У 1709—10 рэктар Полацкага калегіума, у 1710—13 рэктар Віленскай акадэміі, адрадзіў яе пасля спусташальнай эпідэміі 1710, аднавіў яе бібліятэку. Дзякуючы свайму аўтарытэту дабіваўся згоды паміж варагуючымі групоўкамі магнатаў (у т.л. паміж віленскім біскупам К.Бжастоўскім і вял. гетманам ВКЛ Л.Пацеем). Шмат разоў выбіраўся шляхтай палюбоўным суддзёй замест Трыбунала ВКЛ. У 1713—16 узначальваў Літоўскую правінцыю езуітаў.

**Карскі** Яўхім Фёдаравіч [20.12.1860 (1.1.1861), в. Лаша Гродзенскага пав.—29.4.1931], філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф. Акадэмік Пецярбургскай АН (1916, чл.-кар. 1901), правадзейны член Інбелкульта (1922), Чэшскай АН (1929). Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1881), Нежынскі гіст.-філал. ін-т (1995). Працаваў выкладчыкам у Віленскай гімназіі. У 1893 савет Кіеўскага ун-та прысудзіў К. вучоную ступень магістра рус. мовы і славеснасці за даследаванні бел. мовы — першая ў гісторыі дысертацыя па бел. мовазнаўстве. З 1894 прафесар, з 1902 дэкан гіст.-філал. ф-та, у 1905—10 рэктар Варшаўскага ун-та. У 1915—16 працаваў у Растове-на-Доне, з 1917 праф. Петраградскага ун-та. У 1905—17 рэдактар «Русского филологического вестника». З 1917 у Мінску. Удзельнік бел. нац. руху, дэлегат і ганаровы старшыня Усебеларускага з'езда 1917. З 1918 праф. Мінскага пед. ін-та. У маі 1919 Нар. камісарыят асветы Літ.-Бел. ССР адхіліў К. ад пасады прафесара Мінскага пед. ін-та. Старшыня арганізац. камісіі па адкрыцці ў Мінску Бел. дзярж. ун-та, удзельнічаў у распрацоўцы статута Інбелкульта. Аўтар артыкулаў па гісторыі бел. літаратуры і культуры ў бел. перыядычным друку. З 1920 у Петраградзе, адзін з арганізатараў акадэмічнай навукі. Чл. праўлення і прэзідыума АН, дырэктар Музея антрапалогіі і этнаграфіі, супрацоўнік універсітэцкага Навукова-даследчага ін-та, рэдактар «Известий Отделения русского языка и словесности» Рас. АН. Супрацоўнічаў з бел. фалькларыстамі і этнографамі П.В.Шэйнам, М.Я.Нікіфароўскім, Е.Р.Раманавым, падтрымліваў першыя бел. выдавецтвы, газету «Наша ніва», навукова-літаратурны гурток студэнтаў Пецярбургскага ун-та. Перапісваўся з Я.Купалам, Я.Коласам, М.Гарэцкім, С.М.Некрашэвічам, І.І.Замоціным, Я.І.Хлябцэвічам, М.М.Шчакаціхіным.

Аўтар больш як 700 прац па гісторыі бел., рус., укр. моў і літаратур, слав. палеаграфіі. Выдаваў стараж. помнікі гісторыі і л-ры (Лаўрэнцьеўскі летапіс, Руская Праўда). Праца К. «Беларусы» («Белорусы», т. 1—3, 1903—22, у 7 вып.) — вышэйшае дасягненне еўрап. славістыкі канца 19—пач. 20 ст., фактычна энцыклапедыя беларусазнаўства. На аснове глыбокага, комплекснага параўнальна-гіст. абагульнення фактычнага матэрыялу навукова абгрунтаваў нац. самабытнасць беларусаў як самастойнага слав. народа, які стварыў сваю багатую і арыгінальную культуру, мае стараж. традыцыі. У т. 1 «Уводзіны да вывучэння мовы і народнай славеснасці» («Введение в изучение языка и народной словесности», Варшава, 1903; Вільня, 1904) даследаваў паходжанне бел. народа. Прарадзімай славян К. лічыў Палессе (басейн Прыпяці, верхняга Нёмана і ніжняй Бярэзіны), вызначыў час фарміравання бел. народнасці (13—15 ст.), сцвярджаў, што ў аснову бел. народнасці ляглі плямёны дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў, прыйшоў да высновы, што беларусы былі аўтахтонамі на сваіх землях. Акрэсліў этнічныя межы бел. народа, даў этнаграфічную карту Беларусі пач. 20 ст., асвятліў важнейшыя этапы гісторыі бел. мовы, яе спецыфічныя асаблівасці і ўзаемасувязі з рус., укр., польскай, літоўскай і інш. мовамі, вызначыў асн. фонд рукапісаў і помнікаў пісьменства бел. паходжання. У т. 2 «Мова беларускага племені» («Язык белорусского племени», вып. 1—3, Варшава, 1908—12) абгрунтаваў вучэнне пра гукавы і граматычны лад старабел. і сучаснай бел. мовы ў яе народна-дыялектычнай і літ. формах. Т. 3 «Нарысы пісьменнасці беларускага племені» («Очерки словесности белорусского племени») складаецца з 3 выпускаў. У вып. 1 «Народная паэзія» («Народная поэзия», Масква, 1916) асветлена гісторыя развіцця бел. фальклору, ахарактарызаваны асн. жанры і віды нар. паэзіі беларусаў. У вып. 2

«Старая заходнеруская пісьменнасць» («Старая западнорусская словесность», Петраград, 1921) прааналізаваны помнікі стараж. бел. л-ры 14—18 ст., найб. поўна паказана літ.-маст. спадчына бел. народа, раскрыты культурна-гіст. перадумовы зараджэння пісьменнасці на старабел. мове, даследавана як перакладная, так і арыгінальная л-ра. Вып. 3 «Мастацкая літаратура на народнай мове» («Художественная литература на народном языке», Петраград, 1922) прысвечаны бел. л-ры 19—пач. 20 ст., звязанай з бел. адраджэннем новага перыяду. У сваіх даследаваннях К. паспяхова развіваў прынцыпы культурна-гіст. школы, зрабіў значны ўклад у многія галіны гіст. ведаў, у т.л. ў спецыяльныя гіст. навукі — крыніцазнаўства, палеаграфію, археаграфію. Навук. спадчына К. не страціла і сёння сваёй значнасці, яна з'яўляецца асновай для далейшай распрацоўкі беларусазнаўства. Сваю бібліятэку ў 1922 К. перадаў БДУ: цяпер яна зберагаецца ў Нац. б-цы Беларусі (часткова страчана ў гады Вял. Айч. вайны). Частка асабістага архіва К. захоўваецца ў Пецярбургскім аддзяленні Архіва Рас. АН. На радзіме К. ў в. Лаша створаны мемарыяльны музей.

*Тв.*: Обзор звуков и форм белорусской речи. М., 1886; К истории звуков и форм белорусской речи. Варшава, 1893; О языке так называемых литовских летописей. Варшава, 1894; Западнорусские переводы псалтыри в XV—XVII в. Варшава, 1896; Западнорусский сборник XV века, Публичной библиотеки в С.-Петербурге Q.I, № 391: Палеографические особенности, состав и язык рукописи. СПб., 1897; Что такое древнее западнорусское наречие // Тр. Девятого археологического съезда в Вильне 1893 г. М., 1897. Т. 2; Западнорусское сказание о Сивилле пророчице по рукописи XVI века: Текст сказания, его состав и язык. Варшава, 1898; Особенности письма и языка рукописного сборника XV века, именуемого летописью Авраамки. Варшава, 1899; Славянская кирилловская палеография. Л., 1928 (2 выд. М., 1979); К истории белорусского языка в XVII ст. // Изв. по русскому языку и словесности. Л., 1930. Т. 3, кн. 1; Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1—3. М., 1955—56; Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962.

*Літ.*: Булахов М.Г. Евфимий Федорович Карский: Жизнь, научная и общественная деятельность. Мн., 1981; Беларускія пісьменнікі: Біблягр. слоўнік. Мн., 1994. Т. 3.

***Генадзь Кісялёў, Віталь Скалабан.***

**картаграфія**, навука аб картаграфічных творах (картах, планах, глобусах і інш.), метадах іх складання, друкавання і выкарыстання. Першыя картаграфічныя ўяўленні пра тэр. будучага ВКЛ ёсць у працах родапачынальніка К. Клаўдзія Пталамея (90—168 н.э.). На пазнейшых картах пталамееўскай традыцыі амаль да канца 17 ст. прастора паміж Белым, Балтыйскім і Чорным морамі называлася Еўрапейскай Сарматыяй. Назва «Русія» і абазначэнне некаторых мясцін Усх. Еўропы ўпершыню змешчана на карце арабскага географа 12 ст. Ідрысі. Стараж. перыяд К. завяршыла карта *Фра Маўра* 1459. Новы этап развіцця К. пачаўся ў 2-й пал. 15 ст., калі яна ператварылася ў самастойную навуковую галіну. Першым узорам карты новага тыпу стала карта Еўропы М.Кузанскага (1401—64) і дапаўненні да яе, зробленыя яго паслядоўнікамі М.Бенявенцкім і Б.*Вапоўскім*. У картаграфічных творах замацаваліся назвы «Літванія», «Палонія», «Белая Русь», «Чорная Русь», «Чырвоная Русь», «Масковія», «Тартарыя» і інш. Далейшае развіццё К. рэгіёна звязана з дзейнасцю польскіх аўтараў В.Градзецкага, М.Струбіча і А.*Пагрбыкі*. Іх матэрыяламі карыстаўся заснавальнік навуковай К. Г.Меркатар. У той жа час па паліт. прычынах з карт знікла ўпамінанне Белай Русі, але ўкаранілася назва ВКЛ. Пад канец 16 ст. акрэсліліся новыя тэндэнцыі. Па ініцыятыве і на аснове матэрыялаў М.К.*Радзівіла* Сіроткі ў Нясвіжы пачалося складанне першай буйнамаштабнай (1:1 300 000) карты ВКЛ. Асн. працы вяліся да 1595, афармленне карты прыкладна ў 1600—11 завяршыў Т.*Макоўскі*. Радзівілаўская карта ВКЛ была надрукавана ў афіцыне амстэрдамскага картографа В.Блаў. Больш за стагоддзе яна з'яўлялася ў атласах еўрап. картавыдаўцоў. У 1652 яе манаполія была часткова парушана з'яўленнем невял. (маштаб 1:14 000 000), але больш верагоднай карты ВКЛ Г.*Баплана*, які вярнуў назву «Белая Русь» на карты (змясціў яе нават у загалоўку). Карта публікавалася ў тагачасных геаграфічных выданнях, у 1687 яна з'явілася ў апі-




Да арт. **Картаграфія**. І.М ю н ц э р. Карта Усходняй Еўропы. З кнігі Г.Шэдэля «Сусветная хроніка». Нюрнберг. 1493.




Да арт. **Картаграфія**. М.Зойтэр. Польскае каралеўства і ВКЛ. Аўгсбург. 1707. Фрагмент.

санні Рэчы Паспалітай, выдадзеным Я.Сандрартам у Нюрнбергу. З 2-й пал. 17 ст. ў сувязі з унутрыпаліт. аслабленнем Рэчы Паспалітай адбываўся занядад К. Узровень картаграфічнага адлюстравання зямель, у т.л. ВКЛ, амаль стагоддзе заставаўся нязменным і архаічным. Толькі з сярэдзіны 18 ст. пад уплывам ідэй Асветніцтва намецілася ажыўленне картаграфічнай дзейнасці. У 1749 у Нюрнбергу надрукавана карта ВКЛ Я.*Няпрэцкага*. У 2-й пал. 18 ст. ў Рэчы Паспалітай працавалі картографы Ф.Чакі, К.Г. дэ Пертэс, Б.Фаліна, А.*Рыцы-Заноні* і інш. Разнастайныя картаграфічныя творы звязаны з падзеламі Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Кордт В.В. Материалы по истории русской картографии. Вып. 1—2. Киев, 1899—1910; Łodyński M. Centralny katalog zbiorów kartograficznych w Polsce. Z. 1—4. Warszawa, 1961—68; Buczek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII wieku: Zarys analityczno-syntetyczny. Wrocław etc., 1963; Ostrowski W. The ancient names and early cartography of Byelorussia. 2 ed. London, 1971; Салищев К.А. Картоведение. М., 1976; Katalog dawnych map Rzeczypospolitej Polskiej w kolekcji Emeryka Hutten Czapskiego i w innych zbiorach. T. 1. Wrocław etc., 1978; Постников А.В. Развитие картографии и вопросы использования старых карт. М., 1985; Alexandrowicz S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989; Ширяев Е.Е. Беларусь: Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Мн., 1991; Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993; Moreland C., Bannister D. Antique maps. London, 1993; Sirko M. Zarys historii kartografii. Lublin, 1999; Imago Poloniae: Dawna Rzeczpospolita na mapach, dokumentach i starodrukach w zbiorach Tomasza Niewodniczańskiego. T. 1—2. Warszawa, 2002; Багров Л. История картографии. М., 2004; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў (XVI—XX стст.). Мн., 2004; Яго ж. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. 1. Мн., 2005; Lithuania on the map. Vilnius, 2004.

*Леў Казлоў.*

**«Картулярый Літвы, які асвятляе гісторыю вялікага князя Гедзіміна. Лісты Гедзіміна»** («Chartularium Lithuaniae res gestas Gedeminne illustrans. Gedemino laiškai»), зборнік дакументаў у асноўным часоў праўлення *Гедзіміна* [1316—41]. Падрыхтаваў С.Роўэл, выдадзены ў Вільнюсе ў 2003. Ва ўводзінах ахарактарызавана ўнутранае і знешнепалітычнае становішча ВКЛ у 1-й пал. 14 ст., дзейнасць Гедзіміна, яго тытулатура, перапіска. У кні-




Да арт. **Картаграфія**. Н.Сансон д'Абевіль. Польскае каралеўства і ВКЛ. Амстэрдам. Каля 1710. Фрагмент.

зе змешчаны 83 дакументы сярэдзіны 13—пач. 15 ст.: лісты рымскіх пап, арцыбіскупаў, біскупаў, каралёў, князёў, кіраўнікоў рыцарскіх ордэнаў, гар. органаў улады, прывілеі каранаваных асоб, міжнар. дагаворы, вытрымкі з гіст. хронік і інш. Сярод матэрыялаў перапіска Гедзіміна з рымскім папам, мяшчанамі нямецкіх гарадоў, ордэнскімі ўладамі; дагавор полацкага князя Нарымонта (Глеба) з Лівонскім ордэнам 1335—48, пасланне полацкага епіскапа Якава ў Рыгу 1309. Дакументы паходзяць з архіваў Рыгі, Рыма, Берліна, Таліна, Парыжа, Курніка, Кракава, Вены, Камбрэ, Турына; 3 дакументы апублікаваны ўпершыню. Прыводзяцца звесткі пра месца захоўвання арыгінала і копій, ранейшыя публікацыі. Дакументы апублікаваны на мове арыгінала (лацінскай, нямецкай, рус., грэчаскай) з паралельным перакладам на літ. мову. Прыведзены фотаздымкі некаторых дакументаў. Выданне забяспечана каментарыямі, паказальнікам асабовых імён і геаграфічных назваў.

**картэзіянцы**, картузы, манахі каталіцкага манаскага ордэна (Ордэн картэзіянцаў, лац. Ordo Cartusiensis, OCart). Першая пустэльня К. заснавана св. Бруна ў 1084 у Бургундыі ў даліне Шартроз (лац. Cartusia; адсюль і назва). Статут К. зацвердзіў у 1133 папа Інакенцій II. К. жылі ў асобных доміках з невял. агародамі, якія разам з касцёлам складалі кляштар. Манахі самотна займаліся медытацыяй, аскетычнымі практыкаваннямі, тэалагічнымі і навук. штудыямі, ручной працай, мастацкімі рамёствамі; тут жа харчаваліся ежай, якую ім давалі праз маленькае акенца. У Польшчы К. з'явіліся ў канцы 14 ст. Як філія кляштара каля Познані быў заснаваны адзіны кляштар К. у ВКЛ каля Бярозы (1648; гл. *Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў*).

**Кару** (Kareau) Францішак Ксаверый (10.12.1731, каля Оршы—30.7.1802), дзеяч каталіцкай царквы, педагог. З 1754 езуіт, з 1762 ксёндз. У 1763—68 місіянер у Менску, Фашчоўцы, Слуцку. З 1768 выкладаў філасофію, матэматыку, архітэктуру і тэалогію ў Полацкім езуіцкім калегіуме. З 1779 віцэ-рэктар, з 1782 рэктар Аршанскага езуіцкага калегіума, адначасова з 1782 узначальваў Бел. правінцыю езуітаў. З 1786 рэктар Полацкага калегіума, у 1787 адкрыў там друкарню. У 1799—1801 генеральны вікарый (выконваючы абавязкі генерала) ордэна езуітаў, у 1801—02 генерал (з правам карыстацца гэтым ты-




Да арт. **Картаграфія**. Р. і Дж. О т э н с. ВКЛ. Амстэрдам. Каля 1735.

тулам толькі ў межах Рас. імперыі). У 1801 адкрыў езуіцкую школу ў Пецярбургу.

**Каруская бітва 1270**. Адбылася 16 лют. паміж войскамі ВКЛ і Лівоніі каля в. Карусе (на З Эстоніі) і на лёдзе праліва Муху ў Балтыйскім моры, калі літ. войска вярталася з нападу на востраў Саарэма. Яму заступіла шлях лівонскае войска, у склад якога ўваходзілі сілы Лівонскага ордэна, дорпацкага і леальскага біскупаў, мясцовае сял. апалчэнне (агульны камандзір — магістр Лівонскага ордэна Атон фон Лютэнберг), сілы дацкага каралеўскага намесніка ў Таліне Зіферыты. Лівонскія рыцары ў цэнтры клінам урэзаліся ва ўмацаваны санямі строй літоўцаў. Дацкае войска на правым флангу і біскупскае на левым адсталі. Гэта дазволіла літоўцам разбіць асн. сілы праціўніка. Калі падышлі сілы біскупаў, бітва аднавілася, але іх войскі таксама былі разбіты. Літоўцы зберaглі здабычу, але страцілі каля 1600 чал. У бітве загінулі магістр Лівонскага ордэна, 52 рыцары, 600 радавых воінаў-немцаў, вял. колькасць апалчэнцаў. К.б. лічыцца 3-й па значнасці перамогай войска ВКЛ, атрыманай у 13 ст. над ням. рыцарамі (пасля *Саўлескай бітвы 1236* і *бітвы на Дурбе 1260*).

*Літ.*: V a r a k a u s k a s R. Ledo mūšis ties Karūzu 1270 m.: (Iš lietuvių kovų prieš Livonijos ordiną XIII a.) // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Istorija. Vilnius, 1962. T. 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**Карцан** Юзаф, друкар і кнігавыдавец у ВКЛ у 1-й пал. 17 ст. Сын Я.*Карцана*. Атрымаў у спадчыну бацькоўскую друкарню ў Вільні, выданні якой пазначаў сваім імем з 1611. Яго кнігавыдавецкая дзейнасць па маштабах




Да арт. **Картаграфія**. К.А л а р д. Польскае каралеўства і ВКЛ. Амстэрдам. Канец 17 — пач. 18 ст.

значна саступала бацькоўскай. Друкаваў пераважна каталіцкіх аўтараў, у асн. панегірычныя брашуры. Сярод выданняў К. — першыя друкаваныя ў Вільні каталіцкія спевы (некаторыя з нотамі). Паводле падлікаў А.Кавецкай-Грычовай, К. надрукаваў каля 40 пазіцый (больш за 122 друкаваных аркушаў). Апошняе выданне выйшла ў 1620. Далейшы лёс яго друкарні невядомы.

**Карцан** (В е л і ц э н с і с) Ян (Karcan, Velicensis; ?, г. Вялічка — каля 1611), друкар і кнігавыдавец. Друкарскаму майстэрству вучыўся ў Кракаве. З 1576 друкар *Лоскай друкарні*, выдаў 7 (або 8) кніг на польскай і лацінскай мовах, у т.л. трактаты «Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры» С.Буднага (1576) і «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» А.Фрыча-Маджэўскага (1577), творы М.Чаховіца, Я.Палеалога. У 1580—1611 уладальнік друкарні ў Вільні, дзе выдаў больш за 100 кніг на польскай, лацінскай і грэчаскай мовах, у т.л. творы свецкага характару: Цыцэрона, Іосіфа Флавія, Геліядора, Эразма Ратэрдамскага, «Апафегмата» Б.Буднага (1599), «Масковія» А.Пасевіна (1586), паэму Я.Казаковіча «Арэх валоскі» (1603), навук.-вучэбныя і медыцынскія кнігі, календары і інш. Ва ўмовах вострай рэлігійнай палемікі выдаваў творы як рэфармацыйных аўтараў (А.Волана, Рыгора з Жарнаўца, С.Судоўскага), так і каталіцкіх (Пасевіна, А.Юргевіча). Кнігі вылучаюцца высокім узроўнем друкарскага мастацтва. Пасля смерці К. ўладальнікам друкарні стаў яго сын Ю.*Карцан*, які прыняў каталіцтва і змяніў выдавецкую тэматыку.

*Літ.*: А н у ш к и н А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 80—112; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Wrocław; Kraków, 1959. Z. 5. S. 107—115.

***Людміла Іванова.***

**карчма**, піцейны, заезны дом. Мела пастаялы двор, навес для коней, памяшканне, дзе гандлявалі спіртнымі напіткамі, асобнае памяшканне для прыезджых людзей. Назва паходзіць ад слова «карэц» — коўш, пасудзіна, якой зачэрпвалі спіртныя напіткі. Як тып грамадскай пабудовы вядомы славянам з 10—11 ст., здаўна існавалі ў ВКЛ. К. ставілі пры дарозе, каля перавозу, моста, броду, млына, у гарадах — на гандлёвых плошчах. У сярэдзіне 18 ст. К. былі амаль у кожнай вёсцы. У гарадах было 3—4 і больш К. Яны падзяляліся на заезныя (тыпу гасцініцы) і шынковыя (тыпу харчэўні). Гэта былі кампактныя, пераважна прамавугольныя ў плане будынкі з дрэва або цэглы, са страхой, накрытай саломай, чаротам, дранкай альбо гонтам; вокны невялікія, шкляныя; падлога часцей глінабітная. Па планіроўцы К. была вельмі блізкая да нар. жылля, але большая па памерах. На двары пры К. сталі свірны, гумны, хлявы, піўніцы, саладоўні, бровары, дрывотні, стайні, пуні. Незаезная К. складалася з шынка-харчэўні, жытла карчмара і некалькіх гаспадарчых пакояў. Яе планіроўка цесна звязана з сял. сядзібай і паходзіць ад крытага, вяночнага (круглага) ці пагоннага (лінейнага) двароў. К. такога тыпу мелі стадолу, якая стаяла за шынком, і жылыя памяшканні пад адным дахам. У сярэдзіне збудавання былі брукаваная пляцоўка-праезд, калодзеж. Гар. К. маглі аб'ядноўвацца з крамамі, мець 2 шынкі, жылыя памяшканні размяшчаліся на 2-м паверсе альбо ў мезаніне. К. абаграваліся грубкай альбо камінам, у некаторых былі спец. печы для выпечкі хлеба. Пасярод памяшкання стаяў стол, вакол яго былі лавы. Лавы і ўслоны месціліся і ўздоўж сцен. Каля ўваходу звычайна была паліца ці шафка для посуду. У шынках і сенцах адасобліваліся каморы для карчомнай маёмасці, прадкуктаў харчавання. Мог вылучацца самастойны блок кухонных памяшканняў. Вял. К. ў гарадах называлі аўстэрыямі. Пра ўнутраны выгляд К. паведамляюць і замежнікі. Г. дэ Танд згадваў, што ў К. Рэчы Паспалітай ён спаў на нясвежай саломе, побач з коньмі, парасятамі і бочкамі з капустай. Г.Форстэр пісаў, што К. — мізэрная халупа, прапахлая часнаком і цыбуляй. Падарожнікі 17 ст. адзначалі, што ў



**Карчма**. Дрэварыт з кнігі Я.Г.Гаўра «Генеральная гаспадарская эканоміка». Кракаў. 1675.

К. было цёмна, яны ледзь-ледзь асвятляліся полымем лучыны. С.Герберштэйн пахваліў свой начлег у Ваўкавыску, а І. Корб — у Ракаве. К. па дарозе на Полацк Герберштэйн зганіў. Традыцыйныя напіткі бел. К. — піва, мёд, квас, 25—30-градусная гарэлка. Падавалі рэпу, капусту, боб, разнастайныя кашы, селядцы. К. мелі ўласныя назвы: «Парыж», «Выгода», «Апошні Грош», «Зладзейка», «Мардоўня», «Вясёлая», «Пачакай», «Пагулянка», «Уцеха», «Пекла» і інш.

З пашырэннем права *прапінацыі* большасць К. апынулася ў руках шляхты, якая звычайна здавала іх у арэнду (у 18 ст. арандатарамі найчасцей былі яўрэі). Праз арандатараў пан прымусова збываў у К. сялянам прадукцыю свайго *бровара*. Прыгонны меў права піць моцныя напіткі толькі ў К. свайго пана. Даходы ад здачы ў арэнду К. дасягалі часам палавіны ўсіх панскіх прыбыткаў. Парадак дзейнасці К. рэгламентаваўся Статутамі ВКЛ, велікакняжацкімі і каралеўскімі прывілеямі, магістратамі гарадоў. Пры выданні прывілея на К. дзярж. ўлада выстаўляла ўмову ўладальніку К. не памнажаць злачынства: «ижъбы з оное корчмы злодейства не множилися». Ва «Уставе на валокі» 1557 К. дазвалялася ставіць «в каждом войтовстве а в слушном селе, звлаща пры гостинцу за ведомостью враду альбо ревизора».

К. наведвалі сяляне, рамесны і гандлёвы люд, служылыя людзі, чыноўнікі, інтэлігенцыя, духоўныя асобы, вандроўнікі, пілігрымы, жабракі. К. выконвала шырокія сац. функцыі, у т.л. інфармацыйныя, культурныя і псіхалагічныя. Сюды збіраліся на адпачынак сяляне, тут яны ладзілі забавы, танцавалі пад флейту, скрыпку, цымбалы, дуду. У К. гучала шмат навін, чутак, плё-



Адпачынак касцюшкаўскіх войск у **карчме**. Малюнак А.Арлоўскага.

так. Тут можна было пагаварыць ці проста выгаварыцца. У К. грамада праводзіла свае сходкі, тут адбываліся судовыя пасяджэнні, заключаліся гандлёвыя здзелкі, рыхтаваліся антыпрыгонніцкія выступленні. К. археалагічна даследаваны ў Панямонні і Віцебску. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 66.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства беларускага Палесся XVII—XIX стст. Мн., 1978; Baranowski B. Polska korczma. Restauracja. Kawiarnia. Wrocław etc., 1979; Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982; Сергачев С.А. Архитектура корчмы в Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1985. Вып. 33; Kiaupa Z. Karčema prie karčemos: XVI a. vaizdai // Ritualas. Blaivybe. Kultūra. Vilnius, 1989; Шаблюк В.У. Сельскія паселішчы Верхняга і Ніжняга Панямоння XIV—XVIII стст. Мн., 1996; Бабкова В. Карчма: Паводле актавых кніг Менскага й Слонімскага судоў канца XVI—пачатку XVII ст. // Наша ніва. 1997. № 32.

***Людміла Рогач.***

**Карыбут** (у праваслаўі Дзмітрый; ?—пасля 1404), князь навагародскі. 3-і сын вял. князя *Альгерда* і Ульяны Цвярской. Упершыню ўпамінаецца ў 1382, калі разам з братамі Ягайлам, Скіргайлам і інш. падпісаў на р. Дубіса дагавор з крыжакамі. У 1386 у Луцку прысягнуў польскаму каралю Ягайлу, пры гэтым назваў сябе гаспадаром і спадкаемцам Навагародка. Ахвяраваў *Лаўрышаўскаму манастыру* вёску і возера Морына, у прыпісцы на 1-м акушы *Лаўрышаўскага Евангелля* названы вял. князем. У 1390 дапамог Ягайлу пры аблозе Гародні, за гэта атрымаў у дзяржанне Ліду. Адмовіўся прысягаць Вітаўту як вял. князю ВКЛ, у 1392 разбіты яго войскам каля Дакудава (Лідскі пав.), зачыніўся ў Навагародку, пасля штурму горада ўзяты ў палон з жонкай і дзецьмі. Адпушчаны дзякуючы заступніцтву цесця, разанскага князя Алега Іванавіча, але страціў Навагародскае княства. У хуткім часе памірыўся з Вітаўтам, удзельнічаў у яго паходах. Апошні раз упамінаецца ў 1404 як удзельнік паходу на Смаленск. Быў жанаты з Настассяй, удавой друцкага князя Дзмітрыя Васілевіча, з ёй меў сыноў Івана, Жыгімонта, Фёдара (гл. ў арт. *Карыбутавічы*) і дачок Настассю, Алену і Марыю. У гістарыяграфіі часта блытаюць К. і яго брата *Дзмітрыя Альгердавіча*. Некаторыя даследчыкі лічаць К. князем Ноўгарада-Северскага (Украіна). Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 54.



Пячатка **Карыбута**. 1386.

*Літ.*: Stadnicki K. Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza, króla Polski, wielkiego księcia Litwy. Lwów, 1867; Wolff J. Ród Gedimina. Kraków, 1886.

***Мікола Нікалаеў.***

**«Карыбут»**, прыватнаўласніцкі герб у ВКЛ, якім карысталіся князі Збаражскія, Вішнявецкія, Парыцкія, Варанецкія і некаторыя шляхецкія роды. У блакітным (або чырвоным) полі выява сярэбранага крыжа з перакрэсленымі канцамі, замест ніжняга канца — залатыя маладзік рагамі ўніз і 6-прамянёвая зорка. Клейнод шляхецкага варыянта герба — над прылбіцай з каронай 3 страусавыя пёры. Існуюць варыянты герба з залатым крыжам, 5 пёрамі і інш. Герб паходзіць ад пашыранай на прыватных пячатках ВКЛ выявы крыжа, часам крыж відазмяняўся дадаткам новых элементаў. На пячатцы князя Федзькі Іванавіча Нясвіцкага пры дакументах 1434 змешчана выява крыжа з перакрэсленымі канцамі і маладзіком рагамі ўбок замест ніжняга канца крыжа. Яго ўнукі Сямён і Васіль Васілевічы Збаражскія на пячатках пры дакументах 1461 мелі выявы простага крыжа з маладзіком рагамі ўніз і крыжа з перакрэсленымі канцамі, падобным маладзіком і 6-прамянёвай зоркай. Апошні варыянт замацаваўся ў 17 ст. як герб «К.» (ад імя князя *Карыбута*, якога Вішнявецкія лічылі сваім родапачынальнікам). У час знаходжання на троне Рэчы Паспалітай Міхала Вішнявецкага [1669—73] герб «К.» ужываўся ў дзярж. сімволіцы як элемент на вял. і малой пячатках ВКЛ. Выява «К.» разам з гербам Радзівілаў «Трубы» змешчана на гал. фасадзе Нясвіжскага палаца (яго будаўнік М.К.Радзівіл Сіротка быў жанаты з Э.Я.Вішнявецкай).



Герб **«Карыбут»**.

**Карыбутавічы**, князі герба «Пагоня», сыны 8-га сына Альгерда *Карыбута*. Апошні меў сыноў Івана, Жыгімонта і Фёдара, з якіх Іван упамінаецца адночы ў 1431.



Да арт. **Карыбутавічы**.
Пячатка Фёдара Карыбутавіча.
1422.

Жыгімонт (Сігізмунд; каля 1385—1.9.1435) на чале ўласнай харугвы ўдзельнічаў у Грунвальдскай бітве 1410 як васал караля Польшчы, пазней служыў вял. князю Вітаўту. У 1422 выступіў прэтэндэнтам на карону Чэхіі, з дапамогай ВКЛ і Польшчы ўдзельнічаў у барацьбе з інш. прэтэндэнтамі. У 1430 падтрымаў абранне вял. князем Свідрыгайлу, ваяваў на яго баку ў час барацьбы з Жыгімонтам Кейстутавічам. Загінуў у *Вількамірскай бітве 1435*.

Фёдар (каля 1390 — пасля 1440) упамінаецца з 1422. У бітве пад Вількамірам змагаўся на баку Свідрыгайлы, трапіў у палон. Генеалагічная традыцыя канца 16—пач. 17 ст. лічыла яго родапачынальнікам князёў *Збаражскіх* і

*Вішнявецкіх*, у сувязі з чым іх родавы герб меў назву «*Карыбут*». Аднак звесткі пра сыноў Фёдара адсутнічаюць. Меў дачок, з іх Васіліса была жонкай князя Льва Талочкі, Марыя — князя Фёдара Варатынскага, Ганна каля 1445 выйшла замуж за Пятра Мантыгірдавіча, аддаўшы ў пасаг бацькоўскі маёнтак Лоск.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 178—179; Boniecki A. Herbarz polski. Warszawa, 1907. T. 11. S. 193—194.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Карыгайла** (у праваслаўі Васіль, у каталіцтве Казімір; 1369 або 1370—вер. 1390), князь мсціслаўскі. Адзін з малодшых сыноў Альгерда і Ульяны Цвярской. У 1386 або пач. 1387 (пасля хрышчэння Ягайлы) прыняў каталіцтва. Атрымаў ад Ягайлы ў трыманне Мсціслаў. Калі ў 1386 горад аблажыў смаленскі князь Святаслаў Іванавіч, на дапамогу К. рушылі яго браты Скіргайла, Карыбут, Лугвен, Вітаўт; пад горадам адбылася *Мсціслаўская бітва 1386*. У 1390 у час паходу Вітаўта з крыжакамі на Вільню К. ўзначаліў абарону Крывога замка сталіцы і быў забіты разам з яго інш. абаронцамі. Яго галаву насілі на жэрдцы, каб застрашыць абаронцаў Верхняга і Ніжняга замкаў Вільні. У 1396 Вітаўт на памін душы К. і яго брата Віганда запісаў віленскаму кафедральнаму касцёлу святых Станіслава і Уладзіслава 3 вёскі і дзесяціну з чацвёртай.

**Карыцкі** Кароль Фларыян (3.11. 1702, в. Дзітрыкі Лідскага пав.—10.12. 1789), педагог, дзеяч каталіцкай царквы. Брат М.*Карыцкага*. З 1717 езуіт, з 1729 ксёндз. Вучыўся ў езуіцкіх навуч. установах у Вільні, Слуцку і Полацку (17—23), выкладаў граматыку і паэзію ў Вільні і Варшаве. У 1726—30 вучыўся ў Варшаўскім калегіуме, дзе да 1732 выкладаў красамоўства, у 1732—33 выкладаў этыку ў Вільні. Гісторык біскуп Я.*Альбертрандзі* назваў яго «першым майстрам навук і густу ў езуіцкай літаратуры на Літве». У 1733—35 выкладаў рыторыку ў Слуцку, там жа ў 1735—36 прэфект школы, прапаведнік у Радзівілаў. Атрымаў ступень д-ра філасофіі ў Віленскай акадэміі, дзе ў 1736—39 выкладаў філасофію. У 1739—46 у Варшаве, праф. тэалогіі, прапаведнік, прэфект б-кі. У 1746—58 у Рыме. У 1759—63 узначальваў Мазавецкую правінцыю езуітаў. З 1763 рэктар Нясвіжскага калегіума. У 1765 прызначаны асістэнтам польскім пры генерале ордэна езуітаў у Рыме. Пасля скасавання езуіцкага ордэна (1773) за супрацьдзеянне рымскаму папе зняволены разам з генералам ордэна ў замку св. Анёла ў Рыме, вызвалены ў 1776. Апошнія гады правёў у Рыме на пенсіёне папы. Падтрымліваў сувязі з езуітамі ў Рас. імперыі, пераконваў іх у законнасці існавання ордэна на Беларусі. Выступаў супраць падпарадкавання езуітаў біскупу С.Богуш-Сестранцэвічу, за стварэнне іх уласнай адм. арганізацыі. Аўтар панегірыка, шматлікіх казанняў.

**Карыцкі** Міхал (7.9.1714, в. Дзітрыкі Лідскага пав.—10.3.1781), паэт, грамадскі дзеяч, педагог. Брат К.Ф.*Карыцкага*. Д-р філасофіі (каля 1750). З 1730 езуіт, з 1742 ксёндз. У 1733—36 і 1741—43 вучыўся ў Віленскай акадэміі, у 1739—41 — у Варшаве. Выкладаў рыторыку і паэтыку ў Менску (1744—45), Вільні (1745—46), Слуцку (1746—48), прапаведнік у Пінску, Вільні, Варшаве, Дарагічыне, Менску, Бабруйску, выкладаў філасофію ў Вільні (1750—53), сакратар Віленскай акадэміі, прэфект школы і праф. тэалогіі ў Вільні (1753—56), рэктар Варшаўскага езуіцкага калегіума (1763—66), у 1766—70 узначальваў Мазавецкую правінцыю езуітаў. Падзяляў ідэі *Асветніцтва*; імкнуўся палепшыць сістэму адукацыі, надаць ёй больш свецкі характар. Яго вучнем быў паэт А.*Нарушэвіч*. Пасля скасавання ордэна езуітаў К. прызначаны *Адукацыйнай камісіяй* рэктарам Менскай ваяводскай школы (1773—80). Пісаў на лац. мове. Аўтар паэмы «Птушыны сойм», дзе паказаў крызісны стан Рэчы Паспалітай напярэдадні яе падзелаў, элегій «Да Касакоўскага» і «Да брата Караля», прыродаапісальнай оды «Да Зімы», вершаў (пры жыцці апублікавана 25). Пасля смерці К. яго паэтычная спадчына выдадзена Полацкай езуіцкай акадэміяй пад назвай «Песні» («Carmina», 1817). Большасць твораў прысвечана тагачасным грамадскім і культ. дзеячам Беларусі, мясцовым гіст. падзеям. Прыхільнік класіцызму як творчага метаду. Яго паэзія паўплывала на лацінамоўную паэзію Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны эпохі Асветніцтва.

*Літ.*: Жлутко А.А. Міхал Карыцкі — лацінамоўны паэт Беларусі эпохі Асветніцтва // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 5; Парэцкі Я.І. Міхаіл Карыцкі. Мн., 1991.

***Алесь Жлутка.***

**Карыцкія**, княжацкія татарскія роды. Прозвішча ад назвы маёнтка Карыца ў Навагародскім ваяв. На пач. 16 ст. маёнтак належаў сям'і Уланаў-Асанчуковічаў герба «Улан». У 17 ст. адна галіна Уланаў насіла прозвішча К. З гэтай сям'і паходзіў князь Ахмет Шчэнснавіч Улан-К., уладальнік часткі Карыцы, ротмістр казацкай харугвы войска ВКЛ. Яго сын князь Богдан у 1690 упамінаўся ў ліку ўладальнікаў Карыцы і Лоўчыц у Навагародскім ваяв.

Магчыма, галіной гэтага роду з'яўляецца сям'я князёў К., якая на пач. 17 ст. перасялілася ва ўладанні Радзівілаў і на працягу некалькіх пакаленняў узначальвала татар, якія жылі на землях Клецкай ардынацыі. Яе родапачынальнік князь Януш К. ўпершыню ўпамінаецца ў 1614, калі князь А.Радзівіл пацвердзіў за ім 7 валок зямлі ў Асмолаве і Іванаве. Януш быў ротмістрам татарскай харугвы Клецкай ардынацыі, гэтую ж пасаду займалі яго нашчадкі. Некаторыя з іх служылі таксама афіцэрамі войска ВКЛ. Да 20 ст. прадстаўнікі роду былі дробнымі землеўласнікамі ў Ардзе, Асмолаве і Іванаве. Вядомы хрысціяне К., у якіх у 18 ст. была мянушка Бондза. Сваім продкам яны лічылі князя Цімафея, унука Януша (прыняў хрышчэнне ў 1686). Яго сын князь Фёдар у 1716 валодаў часткай Асмолава і Іванава.

Яшчэ адзін род меў тытул мурза (у 19 ст.) і паходзіў ад палкоўніка татарскай харугвы Самуэля К., які ў 1679 атрымаў ад Яна III Сабескага землі ў Лебедзеве і Кабылянах Старасельскіх (Малашэвічах) у Берасцейскай эканоміі. Паводле каралеўскіх прывілеяў за Самуэлем і яго нашчадкамі захоўвалася спадчыннае камандаванне харугвай татараў, якія атрымалі зямлю ў тых жа сёлах і былі абавязаны служыць асабіста каралю. Сын Самуэля Абрагім Мурза-К. ў 1728 прызначаны харужым земскім татарскім Навагародскага ваяв., быў прыхільнікам Станіслава Ляшчынскага, а пасля ўступлення на трон Аў-

густа III эмігрыраваў у Турцыю (каля 1734). З гэтага роду паходзіў Абрагам Давыдавіч Мурза-К., капітан напалеонаўскіх войск, з 1817 навагрудскі межавы суддзя. Многія члены роду служылі афіцэрамі рас. арміі.

Існаваў і аднайменны каталіцкі шляхецкі род герба «Цёлак» у Падляшскім ваяв., які паходзіў з Кароны Польскай і быў вядомы з 16 ст., а таксама К. герба «Прус-I», што паходзілі з Мазавецкага ваяв.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1995. S. 638; Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 156—195; Думин С.В. Татарские князья в Великом Княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991. T. 20.

***Станіслаў Думін.***

**Карыят** (у праваслаўі Міхаіл; каля 1306—паміж 1358 і 1366), князь навагародскі. Сын вял. князя *Гедзіміна* і княгіні Еўны, дачкі полацкага князя Івана Усеваладавіча. Ад бацькі атрымаў Навагарадок і Навагародскую зямлю са Слонімам і Мсцібавам. У прыпісцы 1329 у *Лаўрышаўскім Евангеллі* названы вял. князем. Пасля смерці Гедзіміна і захопу ўлады Альгердам і Кейстутам (1345) прысягнуў Альгерду як вял. князю літоўскаму. У 1349 быў пасланы ў Арду да хана Джанібека арганізаваць кааліцыю супраць Маскоўскага княства. Пасольства было няўдалым. Джанібек выдаў К. вял. князю маскоўскаму Сямёну. У 1350, пасля пасылкі Альгердам падарункаў у Маскву, Сямён «с честию» адпусціў К. на радзіму. Пры К. ў Навагародку актыўна вялося будаўніцтва, горад стаў цэнтрам правасл. Літоўскай мітраполіі. Меў 6 сыноў (гл. *Карыятавічы*).

*Літ.*: Stadnicki K. Synowie Gedymina wielko-władcy Litwy: Monwid—Narymunt—Jewnuta—Koriat. Lwów, 1881. S. 139—181; Wolff J. Rod Gedimina. Kraków, 1886. S. 9, 70—72.

***Мікола Нікалаеў.***

**Карыятавічы,** сыны навагародскага князя *Карыята*, князі ў Падольскай зямлі. Паводле бел.-літоўскіх летапісаў, братоў К. Юрыя, Аляксандра і Канстанціна вял. князь Альгерд у 1362 узяў у паход супраць татараў. У выніку бітвы каля Сініх Вод да ВКЛ была далучана Падольская зямля, дзе К. былі пасаджаны намеснікамі, «пачалі бараніць



Да арт. **Карыятавічы**. Паўгрош князя Канстанціна. Смотрыч. 2-я пал. 1380-х г.



Да арт. **Карыятавічы**. Пячатка князя Аляксандра.

Падольскую зямлю ад татараў» і збудавалі гарады Сматрыч, Бакота, Камянец-Падольскі. З інш. крыніц вядомы яшчэ некалькі К. Відаць, першыя ўладанні на Падоллі К. атрымалі ад князя *Любарта*, які вёў барацьбу за Падолле з польскім каралём *Казімірам III* пасля смерці апошняга падольскага князя Баляслава (Юрыя) Трайдзенавіча.

Юрый (?—1374 або 1375) у 1352 на баку Любарта ваяваў супраць Казіміра III. Разам з інш. князямі падпісаў з Казімірам III *дагавор 1366*. Гаспадар Падольскай зямлі. У 1374? запрошаны на пасад гаспадара Малдовы, дзе забіты.

Аляксандр (?—пач. 1382?) у 1365 удзельнічаў у паходзе Кейстута і Альгерда на Шаўлiскую зямлю. Удзельнічаў у заключэнні дагавора 1366 з Казімірам III. У гэтым годзе Казімір, калі захапіў Уладзімірскую зямлю ў Любарта, аддаў яе ў кіраванне Аляксандру. Пасля смерці Казіміра (1370) страціў Уладзімірскую зямлю, якая вярнулася да Любарта. Пасля брата Юрыя гаспадар Падольскай зямлі. Загінуў у бітве з татарамі.

Барыс (?—паміж 1386 і 1388), суправіцель брата Аляксандра на Падоллі, пасля гаспадар Падольскай зямлі.

Канстанцін (?—да 20.6.1391) княжыў на Падоллі, відаць, ужо з пач. 1380-х г., спачатку разам з братам Барысам, пасля адзінаўладны гаспадар Падольскай зямлі.

Фёдар (?—да 9.11.1416). Захаваў за сабой дробны ўдзел у Навагародскай зямлі. У 1360—70-х г. жыў у Венгрыі, дзе атрымаў ад караля Людвіка г. Мукачава, заснаваў там манастыр. У 1388 суправіцель брата Канстанціна на Падоллі. Прынамсі, з 1391 гаспадар Падольскай зямлі. Магчыма, яго суправіцелем быў брат Васіль. Адразу прынёс прысягу вернасці польскаму каралю Уладзіславу II (Ягайлу) і Кароне Польскай. У пач. 1390-х г. уступіў у востры канфлікт з вял. князем Вітаўтам, вынікам чаго стаў у 1393 паход апошняга на Падолле. Фёдар быў захоплены ў палон, але ўцёк у Венгрыю, дзе зноў атрымаў Мукачава. Беспаспяхова спрабаваў авалодаць Падоллем у 1402. Магчыма, яго сынам быў князь Жадавіт (Іван Фёдаравіч).

Васіль княжыў у Божаску (Бужску), у 1403 прысягнуў Уладзіславу II (Ягайлу) і Кароне Польскай.

З іншых К. Дзмітрый у 1356 ажаніўся з Любоўю, дачкой вял. князя маскоўскага Івана Іванавіча; Леў, Глеб і Сямён загінулі ў *бітве на Ворскле 1399*.

*Літ.*: Stadnicki K. Synowie Gedymina wielko-władcy Litwy: Monwid—Narymunt—Jewnuta—Koriat. Lwów, 1881. S. 143—181; Puzyna J. Korjat i Korjatowicze oraz sprawa podolska // Ateneum Wileńskie. 1936. R. 11; Груша А. Невядомая грамата Фёдара Карыятавіча за 1391 г. // Бел. гіст. агляд. 2001. Сш. 1—2.

***Валерый Пазднякоў.***

**карэліцкія шпалеры,** вырабы ткацкай мануфактуры Радзівілаў у Карэлічах у 2-й пал. 17—1-й пал. 19 ст. Ткалі шпалеры мясц. ткачы па кардонах прыдворных мастакоў *Гескіх*, Скажыцкага. Сюжэты і кампазіцыі пераносілі на шпалеры з карцін А. ван *Вестэрфельда*, Дэль Бензі і інш. Мануфактура дасягнула росквіту ў сярэдзіне 18 ст. Найб. вядома серыя высокамастацкіх шпалераў, выкананых у 1740—50-я г.



Да арт. **Карэліцкія шпалеры**. Абойная тканіна. 2-я чвэрць 18 ст.

па загадзе М.К.Радзівіла Рыбанькі для ўслаўлення свайго роду. Сярод іх: «Імператар Карл V Габсбург надае Радзівілам княжацкі тытул», «Узяцце ў палон М.Крычэўскага пад Лоевам у 1649 г.», «Парад войск пад Заблудавам». К.ш. ўпрыгожвалі парадныя залы Нясвіжскага замка — рэзідэнцыі Радзівілаў. Многія з іх знішчаны ў 1812, інш. зберагаюцца ў музеях Расіі і Польшчы. На некаторых выяўлены меткі — прозвішчы мясц. ткачых Настассі Маркевіч і Марыі Кулакоўскай. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 146.

*Літ.*: Трызна Д.С. Беларускія дываны і габелены. Мн., 1981.

**Карэлічы** (цяпер горад, цэнтр Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Новагародскім пав. Упершыню ўпамінаюцца пад 1395 у сявязі з нападам крыжакоў. У 15 ст. ў Новагародскім пав., велікакняжацкі двор. У 1428 К. ўпамінаюцца ў грамаце вял. князя Вітаўта, паводле якой ён перадаваў сваёй жонцы Ульяне цэлы шэраг паселішчаў на Беларусі. У 16 ст. ўладанне Чартарыйскіх, у 1505 разрабаваны татарамі. У 1594 упамінаецца як мястэчка. У 1646 у К. 5 вуліц: Папоўская, Дворная, Крывая, Мастовая, Запольская, 55 пляцаў і 14 валок зямлі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655 спалены войскамі А.М.*Трубяцкога*. З 2-й пал. 17 ст. ўладанне Радзівілаў, у мястэчку пачалі выраблядь *Карэліцкія шпалеры*. У 1672 у К. 83 двары, 6 вуліц, 2 млыны, карчма. У час Паўн. вайны 1700—21 у 1706 К. абрабавалі і спустошылі шведы. У 1730 тут быў пабудаваны драўляны сядзібна-палацавы комплекс (2-павярховы палац, флігель, гаспадарчыя пабудовы, 2 брамы). У 1757 — 163 дамы, 28 крам. Відаць, у сярэдзіне 17 ст. мястэчка атрымала ад Радзівілаў некаторыя гар. правы, таму што пад 1757 у інвентары ўпамінаецца ратуша (мела адзін пакой, з 2 бакоў да буданка прымыкалі крамы). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Карэліцкага р-на. Мн., 2000.

***Валерый Грынявецкі.***

**Карэнга** Ігнацій, гравёр 18 ст. Святар. Гравёрскай справе, відаць, вучыўся ў Вільні ў сваяка Антонія Карэнгі, гравёра і віленскага правінцыяла францысканцаў. Аўтар рэлігійных графічных твораў, партрэтаў, кніжных ілюстрацый. Сярод яго твораў выявы св. Антонія, абразоў Божай Маці з касцёла Пятра і Паўла ў Вільні, з Віленскага бернардзінскага касцёла св. Міхала, з Янаўскага і Барунскага касцёлаў, Вастрабрамскай Божай Маці, гравюра прамор 1710, від касцёла баніфратраў у Вільні, партрэты віленскага біскупа І.Масальскага (1778), А.Нарушэвіча (1780), Паўла І (1797), А.А.Замойскага і яго жонкі М.Замойскай, франтыспіс і ілюстрацыя «Пераперазанне Дон-Кіхота на рыцара» кнігі Сервантэса «Дон-Кіхот» (т. 1, Вільня, 1781), 46 табліц у кнізе Ж.М.Брысона «Трактат пачатковы, або Пачаткі фізікі» (т. 1—3, Вільня, 1800), выява зубра і інш.

**карэц**, мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасцей. У ВКЛ з 16 ст. найб. выкарыстоўваўся кракаўскі К. у 14 гарцаў, які да 1762 адпавядаў 38,47 л, з 1764 — 37,7977 л. З 1764 агульнадзяржаўным стаў варшаўскі (каронны, скарбовы) К., роўны 4 чвэрцям (32 гарцы, або 128 кварт, або 512 кватэрак), які для напіткаў лічыўся ў 120,6052 л, а для сыпкіх рэчываў — у 6 пудоў (98,28 кг).

*Літ.*: Горбачевский Н. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874; Falniowska-Gradowska A. Miary zbożowe w województwie krakowskim w XVIII wieku // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1965. № 4.

***Яўген Анішчанка.***

**Карэцкія**, княжацкі род герба «Пагоня». Паходзілі ад князя Патрыкея Нарымонтавіча, унука Гедзіміна. Прозвішча ад г. Корац на Валыні. Найб. вядомыя:

Аляксандр Патрыкеевіч, сын Патрыкея Нарымонтавіча. Спачатку валодаў г. Старадуб. У 1400 выдаў дачку Агрыпіну замуж за Андрэя, сына маскоўскага вял. князя Дзмітрыя Данскога. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08* па падазрэнні ў здрадзе зняволены Вітаўтам (1406). Пасля атрымаў свабоду і ўзамен за Старадуб Корац. Яго сын Сямён з'ехаў у Маскву, дзе яго род і згас.

Васіль Аляксандравіч, сын Аляксандра Патрыкеевіча. У 1443 вял. князь Свідрыгайла загадаў баярам і зямянам у ваколіцах Кораца служыць Васілю Аляксандравічу, як



Да арт. **Карэцкія**. С.Карэцкі.

яны служылі яго бацьку Аляксандру Патрыкеевічу. Меў сыноў Богуша і Івана.

Іван Васілевіч (?—да 1502), сын Васіля Аляксандравіча. Намеснік краснасельскі ў 1492. Меў сыноў Фёдара, Івана, Васіля, Льва і Аляксандра (апошнія 3 загінулі ў бітве з татарамі пад Сокалем у 1519).

Фёдар Іванавіч (?—да 1522), сын Івана Васілевіча. У 1508 атрымаў ад вял. князя маёнтак Сушчаны, у 1512 — Таргавіцу ў Луцкім пав. (разам з братам Іванам). Меў некалькі сыноў, якія памерлі маладымі.

Богуш Фёдаравіч (?—19.8.1576), сын Фёдара Іванавіча. Стараста звянігарадскі і житомірскі ў 1539—60, брацлаўскі і вінніцкі з 1550, адначасова луцкі з 1560 і ваявода валынскі з 1572. Шмат разоў бараніў Валынь ад татарскіх нападаў. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Валодаў паўн.-ўсх. часткай Валыні, маёнткамі ў Брацлаўскім і Кіеўскім ваяв. У 1562 атрымаў прывілей на залажэнне мястэчка ў Таргавіцы. У 1569 падпісаў акт далучэння Валыні да Кароны Польскай. Заснаваў 3 правасл. манастыры. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

Самуэль (?—27.6.1622), сын Іахіма Богушавіча. У 1604 паступіў у Лейдэнскі ун-т. Служыў у войску пад камандаваннем гетмана С.Жалкеўскага. Шмат разоў адбіваў татарскія напады. У 1610—12 удзельнічаў у паходзе на Маскву, абароне Крамля. Шлюб з дачкой малдаўскага гаспадара Іерамея Магілы Кацярынай уцягнуў яго ў дынастычную барацьбу ў Малдове і Валахіі. У 16161 трапіў у турэцкі палон, там прыняў каталіцтва, у 1617 уцёк. У бітве пад Цацорай 1620 зноў трапіў у турэцкую няволю і быў задушаны ў Стамбуле. Карыстаўся вял. павагай у казакоў і шляхты. Стаў героем укр. дум.

Кароль (Ян Кароль; ?—4.5.1633), сын Іахіма Богушавіча. У 1604 паступіў у Лейдэнскі ун-т. З 1608 на ваеннай службе ў Галандыі. 5 гадоў правёў у палоне ў Швецыі (прыняў там уніяцтва), вярнуўся ў 1613. Стараста вінніцкі з 1622, кашталян валынскі з 1623.

Самуэль Кароль (1621—12.2.1651), сын Караля. Вучыўся ў Грацы і Падуі. З 1648 удзельнічаў у барацьбе з паўстаннем Б.Хмяльніцкага. З яго смерцю род К. згас.

***Валерый Пазднякоў.***

**Касажэцкі** (Kossarzecki) Кшыштаф Уладзіслаў (н. 25.7.1967, г. Аструда, Вармінска-Мазурскае ваяв., Польшча), польскі гісторык. Магістр евангелісцкай тэалогіі (1996) і гісторыі (1999). Скончыў Хрысціянскую тэалагічную акадэмію ў Варшаве (1996) і Гіст. ін-т Варшаўскага ун-та (1999), дзе з 2000 дактарант. Даследуе гісторыю ВКЛ і інш. краін Цэнтр.-Усх. Еўропы новага часу, гал. чынам палітычныя адносіны, ваенную гісторыю, войны паміж Рэччу Паспалітай, Расіяй, Швецыяй, Турцыяй; гісторыю Рэфармацыі і контррэфармацыі ў Рэчы Паспалітай; гісторыю магнацкіх уладанняў. Удзельнічаў у рэдакцыйнай падрыхтоўцы зборніка дакументаў «Ваенныя рэляцыі першых гадоў польска-казацкай барацьбы ў паўстанні Багдана Хмяльніцкага перыяду «Агнём і мячом» (1648—1651)» [«Relacje wojenne z pierwszych lat walk polsko-kozackich powstania Bohdana Chmielnickiego okresu Ogniem i Mieczem (1648—1651)», Варшава, 1999].

*Тв.*: Walki z wojskami moskiewskimi Iwana Chowańskiego na Podlasiu w lutym—marcu 1660 roku // Świat pogranicza. Warszawa, 2003; Słuck wobec zagrożenia moskiewskiego i kozackiego podczas wojny z Moskwą w latach 1654—1667 // Materiały do historii wojskowości. Pułtusk, 2004. № 2; Бітва пад Палонкай 28 чэрвеня 1660 г. // Бел. гіст. агляд. 2004. Сш. 1—2; Słuck Bogusława Radziwiłła w połowie XVII wieku // Zamojsko-wołyńskie zeszyty muzealne. Zamość, 2005. T. 2; Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005.

**Касакоўскі** Станіслаў Казімір (3.7.1837, в. Вайткушкі Вількамірскага пав.—4.11.1905), генеалог. У 1858 па пратэкцыі бацькі, старшыні Герольдыі Каралеўства Польскага, Станіслава Шчэснага Касакоўскага атрымаў у Герольдыі чыноўніцкую пасаду. Віцэ-рэферэндар Дзярж. рады Каралеўства Польскага (1865—67), чл. Рэгулявальнага к-та Варшавы; камергер. У 1876—85 ганаровы міравы суддзя Вількамірскага пав. Валодаў Вайткушкамі, Вял. Бераставіцай, Ляхавіцкім графствам з мяст. Ляхавічы, землямі ў Расіі. Удзельнік тэатральнага жыцця ў Вільні і Варшаве, адзін з пачынальнікаў фатаграфіі ў краі. Гал. працы К. — нарысы па гісторыі шляхецкіх родаў ВКЛ і Польшчы (у т.л. Касакоўскіх, Хадкевічаў, Гедройцаў, Чацвярцінскіх), якія былі сабраны ў «Гістарычна-генеалагічных манаграфіях» (у выданні ўдзельнічаў і Ю.Бляшчынскі). К. крытычна абагульніў навук. звесткі папярэднікаў і быў першым генеалогам, хто шырока выкарыстоўваў дакументы Гал. архіва стараж. актаў у Варшаве, а таксама прыватных архіваў у Беларусі і Літве. Шмат матэрыялаў пра шляхту ВКЛ даслаў Т.*Жыхлінскаму* для яго шматтомнай працы «Залатая кніга польскай шляхты» і А.*Банецкаму* для «Польскага гербоўніка». Працы К. вызначаюцца дакладнасцю і багатай інфармацыяй. Пакінуў мемуары і дзённік.

*Тв.*: Monografie historyczno-genealogiczne niektórych rodzin polskich. T. 1—3. Warszawa, 1859—72 (T. 1. 2 wyd.. 1876); Trzeci Maj i Targowica. Kraków, 1890; Wspomnienia z przeszłości spisane dla dzieci i wnukow: Wyiątki // Materiały do biografii, genealogii i heraldyki polskiej. Buenos Aires; Paryż, 1974. T. 6.

**Касакоўскія**, Корвіны-Касакоўскія, шляхецкі род гербаў «Слепаўрон» і «Корвін». Вядомы з 15 ст. Родавае гняздо — в. Касакі каля Цеханоўца ў Нурскай зямлі. Пасля пасяліліся ў Ломжынскай і Візнаўскай землях, на Валыні. У 16 ст. род К. быў ужо моцна разгалінаваны. Нікадзім Францыск К. (каля 1556—1609) трымаў некаторыя старасты ў ВКЛ і дзякуючы шлюбам з прадстаўніцамі магнацкіх родаў ВКЛ заклаў тут трывалы падмурак ро-



ду. Прадстаўнікі некаторых ліній роду К. ужывалі графскі тытул, але афіцыйна атрымалі яго толькі ў 1781. Найб. вядомыя:

Е ж ы (?—каля 1726). У 1670 у Луцку ўступіў у ордэн дамініканцаў. Святар. Шмат гадоў быў місіянерам у Інфлянтах, першым прыёрам кляштара ў Посіні (1701). Генеральны прапаведнік у Нясвіжы (з 1704), Астровічах (з 1707), Дзярэчыне (з 1710), Мерачы (з 1715), у кляштары Св. Духа ў Вільні (з 1719). Аўтар малітоўніка на літ. мове «Rożancius święciansios Maryos Pannos yr saldaiausya warda Jezusa teypogi spasabos apwayksciojima kałnu kaływaryos Ziamayciu su modlitwomis yr giesmiensis anto służijąciomis» (Вільня, 1681, пасля было каля 40 выданняў).

Р э м і г і я н (1.10.1730, Жамойць — 12.11.1780), сын Рэмігіяна. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. З 1753 езуіт, з 1763 святар. У 1765—68 выкладаў у Віленскай акадэміі, у 1768—69 і 1771—73 прапаведнік і бібліятэкар езуітаў у Гародні. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) канонік пазнанскі, з 1774 у Парыжы замежны карэспандэнт Адукацыйнай камісіі. Садзейнічаў набыццю тут абсталявання для абсерваторыі ў Вільні.

М і х а л (23.7.1733, г. Каралявец—18.1.1798), сын Дамініка. Служыў у войску. Ковенскі падстолі з 1761, пісар скарбовы ВКЛ у 1765—81, кашталян віцебскі ў 1781—87 і ваявода ў 1787—94, ваявода браслаўскі з 1794; пасол на сойм 1764. У 1766—75 чл. Скарбовай камісіі ВКЛ. У 1781 атрымаў ад аўстрыйскай імператрыцы Марыі Тэрэзіі графскі тытул. Выступаў супраць Канстытуцыі 3 мая 1791. Арыентаваўся на Расію, удзельнічаў у арганізацыі Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у падтрымку *Таргавіцкай канфедэрацыі*.

А н т о н і й (1735—25.9.1798), сын Дамініка. Ковенскі стражнік і падстараста ў 1759—65, пісар земскі з 1765, харужы з 1782, кашталян інфлянцкі з 1789; пасол на сойм 1780, Чатырохгадовы сойм 1788—92; дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1759, 1789. Арыентаваўся на Расію. У 1792 далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі. У час *паўстання 1794* арыштаваны. Валодаў маёнткамі ў Літве.

Ю з а ф К а з і м і р (16.3.1738, в. Шылы Ковенскага пав.—9.5.1794), сын Дамініка. Скончыў Ковенскі езуіцкі калегіум. Ковенскі падчашы з 1758, пасля суддзя земскі; пасол на сойм 1761. З 1761 святар, пробашч у Воўпе. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, дзе атрымаў ступень д-ра філасофіі. З 1764 чл. віленскага капітула (кусташ). Прыхільна ставіўся да Барскай канфедэрацыі, для яе падтрымкі разам з братам Шыманам намагаўся стварыць Генеральную канфедэрацыю ВКЛ. Рас. уладамі быў узяты пад дамашні арышт. З 1775 тытулярны біскуп цыненскі і пісар ВКЛ. Варагаваў з А.*Тызенгаўзам*, пасля яго адстаўкі перавёў шмат рамеснікаў з Гародні ў свае маёнткі. З 1781 біскуп інфлянцкі. У 1782—86 чл. Пастаяннай Рады (старшыня дэпартамента справядлівасці ў 1784—86). Удзельнічаў у працы Чатырохгадовага сойма 1788—92. У палітычнай дзейнасці арыентаваўся на Расію. Падтрымаў утварэнне Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у падтрымку Таргавіцкай канфедэрацыі. У 1792 заняў пануючае становішча ў ВКЛ, якое намагаўся далучыць да Расіі. Для адрыву ВКЛ ад Польшчы садзейнічаў утварэнню асобных дзярж. камісій ВКЛ, якімі фактычна кіраваў. У час паўстання 1794 арыштаваны ў Варшаве і як здраднік павешаны. Аўтар камедый, дыярыуша, перакладаў.

Ш ы м а н М а р ц і н (1741, в. Шылы Ковенскага пав.—25.4.1794), сын Дамініка. Вучыўся ў езуітаў у Коўні, ва ун-це ў Караляўцы. Падчашы ковенскі з 1763, пасол на соймы 1764 і 1766. Далучыўся да *Радамскай канфедэрацыі*, у 1767 быў сакратаром пасольства ад яе ў Маскву. У 1768 далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*, выступаў супраць рэформ, што прапаноўваў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, і ўзначаліў антырас. выступленні ў ВКЛ з тытулам генеральнага маршалка ВКЛ. У ліст. 1768 разбіты каля в. Высокая Руда каля Кальварыі і адышоў з рэшткамі свайго войска ў Прусію, пасля пераехаў у Дрэздэн. Шукаў падтрымкі ў Турцыі. Прэтэндуючы на вяршэнства ў апазіцыйным руху, вёў барацьбу супраць Генеральнасці Барскай канфедэрацыі, якая выдала загад аб яго арышце. У 1771 прыбыў у Жамойць агітаваць за новы ўздым паўстання. З сабраным войскам атрымаў некалькі перамог над урадавым і рас. войскамі, праз Менск рушыў у Падняпроўе. Развіваючы поспех, праз дзярж. граніцу ўварваўся ў Смаленскую губерню Расіі. 14.9.1771 атрымаў перамогу пад Старым Быхавам, пасля рушыў у Мсціслаўскае, Віцебскае і Полацкае ваяв., Літву, Мазовію. У 1772 ваяваў у Польшчы. Пасля ў эміграцыі ў Аўстрыі, Францыі, Турцыі. Вярнуўся ў канцы 1775 і змяніў палітычную арыентацыю на карысць Расіі. Быў абраны пaслом на сойм 1782, чл. Пастаяннай Рады ў 1786—88. У 1790 уступіў у рас. армію з чынам ген.-маёра (пасля ген.-паручнік), ваяваў з туркамі на Балканах. Варожа сустрэў Канстытуцыю 3 мая 1791 і ў Пецярбургу арганізоўваў інтэрвенцыю супраць Рэчы Паспалітай. У *вайну 1792* камандаваў калонай, якая наступала з Полацка на Вільню. Удзельнічаў у стварэнні Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у падтрымку Таргавіцкай канфедэрацыі, якая супрацьзаконна прызначыла яго польным гетманам ВКЛ. Выступаў за адасабленне ВКЛ ад Польшчы, што павінна было ўмацаваць становішча клана К. Пад пагрозай новага падзелу Рэчы Паспалітай вылучыў план далучэння ВКЛ як удзельнага княства да Расіі. У час паўстання 1794 у ноч на 24.4.1794 і паводле прыгавору паўстанцкага суда як здраднік павешаны ў Вільні.

Я к у б (12.5.1752—84), сын Мацея. З 1765 езуіт. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Нясвіжы і Слуцку. Выкладаў у Нясвіжы і Менску. З 1773 супрацоўнічаў у варшаўскай газ. «Zabawy przyjemne i pożyteczne» («Прыемныя і карысныя забавы»), дзе друкаваў вершы. Падстолі ковенскі з 1781, чл. Скарбовай камісіі ВКЛ з 1782, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1782.

Я н Н е п а м у ц э н (16.5.1755, Кракаўскае ваяв.—26.8.1808), сын Антонія. Вучыўся ў піярскіх калегіумах у Пётркаве і Варшаве, у Рыме, вандраваў па Францыі і Англіі. З 1787 святар, з 1788 чл. віленскага капітула, з 1793 кад'ютар (намеснік) біскупа інфлянцкага і чл. Адукацыйнай камісіі, з 1794 тытулярны біскуп ларыменскі, з 1794 біскуп інфлянцкі. У 1795 шукаў апекі ў Пецярбургу і, відаць, прычыніўся да ўказа Кацярыны II аб далучэнні Віленскага біскупства да Інфлянцкага (з сядзібай біскупа ў Вільні). Пасля аднаўлення Віленскага біскупства ў новых межах (1798) біскуп віленскі. Шмат зрабіў для развіцця адукацыі і

дабрачыннасці ў краі. Аўтар казанняў, прац па гісторыі літаратуры, дыярыуша, перакладаў з французскай мовы.

Міхал (1769, в. Марцінішкі—1839), сын Антонія. Вучыўся ў езуітаў і піяраў у Вільні, у піяраў у Варшаве. Ковенскі харужы з 1789, падкаморы з 1791, пісар польны ВКЛ з 1794; дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1789. З 1790 пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92. Выступаў супраць Канстытуцыі 3 мая 1791. Далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі. У час паўстання 1794 спачатку арыштаваны паўстанцамі, але пасля ваяваў на іх баку. З 1797 маршалак шляхты Ковенскага пав. Займаўся археалагічнымі раскопкамі курганоў і гарадзішчаў.

*Літ.*: Kossakowski S.K. Monografie historyczno-genealogiczne niektórych rodzin polskich. T. 1. 2 wyd. Warszawa, 1876.

***Валерый Пазднякоў.***

**касінеры**, у час *паўстання 1794* у Польшчы, Беларусі і Літве сяляне, якія былі ўзброены косамі, насаджанымі вертыкальна, у шырокім сэнсе — сяляне-добраахвотнікі з пешых паўстанцкіх атрадаў. У час паўстання бел. К. складалі каля 1/3 ад агульнай колькасці паўстанцкіх атрадаў, удзельнічалі ў бітвах пад вёскамі Паляны, Ліпнішкі, Солы, Крупчыцы і інш.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Касінскі** (Kosiński) Адам Амількар (1814 або 1815, в. Халевы Варшаўскага ваяв.—24.4.1893), польскі гісторык, пісьменнік. Удзельнік паўстання 1830—31. Аўтар шматлікіх гіст. аповесцей і апавяданняў, пераважна з часоў напалеонаўскіх войнаў. Выдаў «Геральдычны даведнік» («Przewodnik heraldyczny», Кракаў, Варшава, т. 1—5, 1877—85) пра шляхецкія роды Польшчы, Беларусі, Літвы, дзе разам з уласнымі нарысамі змяшчаў працы, прысланыя інш. асобамі. «Даведнік» выклікаў вострую крытыку спецыялістаў (палеміка з А.Рэйскім скончылася дуэллю). Разам з С.*Урускім* рыхтаваў да друку гербоўнік «Сям'я» («Rodzina», выдадзены ў 1904—31 у 15 т.).

**Касой** Феадосій, рэлігійны вальнадумец і прапаведнік 3-й чвэрці 16 ст. ў Маскоўскай дзяржаве і ВКЛ. Ідэолаг радыкальнай антыправасл. ерасі — феадасіянства, адзін з кіраўнікоў рэфармацыйнага руху ва Усх. Еўропе. Асн. крыніцамі ў вывучэнні ідэй і дзейнасці К. з'яўляюцца ананімнае «Послание многословное», творы сучаснікаў Зіновія Атэнскага і *Арцемія*. У 1554 К. прыцягнуты да следства па справе рус. вальнадумца М.Башкіна, зняволены ў адзін з маскоўскіх манастыроў. Уцёк у Беларусь, дзе жыў у 1550—60-я г. (спачатку ў Віцебску). Крытыкаваў царк. абраднасць, афіц. веравучэнне, правасл. царкву як сацыяльны ін-т і духавенства як носьбіта ўласцівых ёй заган. Адмаўляў боскую прыроду Хрыста, не верыў у святых і цуды, у замагільнае жыццё і ўваскрэсенне мёртвых, крытыкаваў шанаванне абразоў. Асуджаў феад. адносіны і ўладу, заклікаў да грамадскага непадпарадкавання. Выступаў за роўнасць народаў і веравызнанняў. Ідэі К. атрымалі шырокую падтрымку сярод гар. нізоў Беларусі і ўвогуле ВКЛ. Паводле слоў свайго апанента Атэнскага, К. «развратил Литву». Феадасіянства стала агульнаўсходнеслав. з'явай і адыграла немалую ролю ў генезісе антыфеад. тэндэнцый у ходзе Рэфармацыі ў Рэчы Паспалітай, уяўляла небяспеку для духоўнай манаполіі правасл. царквы. Пад пагрозай расправы, на якую падбухторвала народ азлобленае духавенства, К. з аднадумцамі быў вымушаны пакінуць Віцебск. Магчыма, ён быў на чале групы маскоўскіх манахаў, што вясной 1557 з'явіліся ў Вільні. У 1560-я г. далучыўся са сваімі вучнямі да *антытрынітарыяў* і зрабіў уплыў на ідэалогію гэтага руху. Самыя познія звесткі пра К. датуюцца сярэдзінай 1570-х г., калі ён прапаведаваў на Валыні.

*Літ.*: Алексютович Н.А. Русские вольнодумцы в Белоруссии // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. (Вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970; Голенченко Г.Я. Новые письменные источники о деятельности русских еретиков в Белоруссии и Литве во второй половине XVI в. // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986; Дмитриев М.В. Православие и реформация: Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990.

***Святлана Марозава.***

**Кастамараў** (Костомаров) Мікалай Іванавіч [4(16).5.1817, с. Юрасаўка Астрагожскага пав. Варонежскай губ.—7(19).4.1885], рускі і ўкраінскі гісторык, этнограф, пісьменнік. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1876). Скончыў Харкаўскі ун-т (1836). У 1846—47 ад'юнкт-праф. Кіеўскага, у 1859—62 праф. Пецярбургскага ун-таў. У 1841 падрыхтаваў магістэрскую дысертацыю «Аб прычынах і харктары уніі ў Заходняй Расіі», якая па палітычных прычынах была забаронена. Быў адным з заснавальнікаў Кірыла-Мяфодзіеўскага т-ва (1846—47), складальнікам яго праграмных дакументаў, у якіх выказвалася ідэя дэмакратычнай федэрацыі слав. народаў. За ўдзел у дзейнасці т-ва ў 1848—56 сасланы пад нагляд паліцыі ў Саратаў. Распрацоўваў пытанні гісторыі Украіны, Расіі, Рэчы Паспалітай 16—18 ст. Аўтар прац «Багдан Хмяльніцкі і вяртанне Паўднёвай Русі да Расіі» (1857), «Бунт Сценькі Разіна» (1858), «Нарыс гандлю Маскоўскай дзяржавы ў XVI і XVII стст.» (1862). На падставе матэрыялаў з архіваў Вільні і Варшавы напісаў даследаванне «Апошнія гады Рэчы Паспалітай» (1869, прэмія Пецярбургскай АН 1872). Падзенне Рэчы Паспалітай тлумачыў адмоўным уплывам гвалтоўнага насаджэння каталіцтва, панаваннем шляхты ў дзярж.-паліт. жыцці краіны. У 1870-я г. падтрымаў палітыку царскай Расіі ў Польшчы, хоць увогуле прытрымліваўся ліберальных поглядаў. Чл. Археаграфічнай камісіі, рэдактар «*Актаў Паўднёвай і Заходняй Расіі*». Аўтар гіст.-біягр. партрэтаў гіст. дзеячаў Расіі і Рэчы Паспалітай 16—18 ст., а таксама паэтычных, драматычных і публіцыстычных твораў. Быў блізка знаёмы з М.Г.Чарнышэўскім, Т.Р.Шаўчэнкам, М.А.Дабралюбавым, З.Серакоўскім. Паводле некаторых звестак, быў знаёмы з К.Каліноўскім.

*Тв.*: Исторические монографии и исследоваания. Т. 1—2. М., 1990; Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Кн. 1—3, вып. 1—7. М., 1990—92; Старый спор: Последние годы Речи Посполитой. М., 1994.

*Літ.*: Попов П.М. М.Костомаров як фольклорист і етнограф. Київ, 1968; Пінчук Ю.А. М.І.Костомаров, 1817—1885. Київ, 1992.

***Дзмітрый Караў.***

**Касцевічы**, гл. *Косцевічы*.



Герб **«Касцеша»**.

**«Касцеша»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 200 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Барэйкі, Верашчакі, Жабы, Галашэўскія, Дарагастайскія, Дольскія, Капытоўскія, Сланчэўскія, Статкевічы, Хадкевічы, Шымковічы. На чырвоным полі выява сярэбранай стралы, накіраванай угору і перакрыжаванай пасярэдзіне, з раздвоеным канцом; клейнод — над прылбіцай з шляхецкай каронай 3 страусавыя пёры. Існуе шмат варыянтаў герба: страла з 2 перакрыжаваннямі або наогул без іх, з 6-прамянёвымі зоркамі па баках, з рукой з мячом у клейнодзе і інш. У Польшчы вядомы з пач. 14 ст., у ВКЛ — з 15 ст.

**Касцюкавец** Ларыса Піліпаўна (н. 15.2.1939, г. Мінск), беларускі музыказнавец, фалькларыст. Канд. мастацтвазнаўства (1978), дацэнт (1980). Скончыла Бел. кансерваторыю (1966). З 1965 выкладае ў Бел. акадэміі музыкі, з 1980 навук. кіраўнік кабінета нар. музыкі, 1981 заг. кафедры тэорыі музыкі, з 1996 праф. кафедры бел. музыкі. Даследуе кантавую культуру Беларусі, бел. нар. песню, стараж.-рус. і бел. знаменны спеў. Прапагандуе канты ў жывым гучанні. Аўтар вучэбна-метадычных прац, радыё- і тэлеперадач на фальклорныя тэмы, складальнік зб. «Беларускія канты» (1992).

*Тв.*: Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; К истории рукописного сборника // Вопросы теории и истории музыки. Мн., 1976; Беларускі рукапісны ірмалой // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даследаванні. Мн., 1989; Музыка Беларусі XVII стагоддзя. Мн., 1991; Беларускія народныя абрады. Мн., 1994; Канты Епіфанія Славінецкага // Праблемы этнамузыкалогіі і гісторыі музыкі ў сучасных даследаваннях. Мн., 1996.

**Касцюковічы** (цяпер горад, цэнтр Касцюковіцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), сяло, пасля мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв. Упершыню згадваюцца ў 1508 як сяло Лучыцкай вол. Да 1-й пал. 18 ст. былі невял. прыватнаўласніцкім сялом. У пач. 1730-х г. у К. 35 дымоў. У 1739 К. згадваюцца як прыватнаўласніцкае мястэчка менскага гараднічага Ю.Іваноўскага, у якім 2 правасл. храмы. Асн. частка мястэчка знаходзілася на правым беразе р. Жадунька. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 у К. 89 дымоў, 413 жыхароў.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Касцюшка** Тадэвуш (Андрэй Тадэвуш Банавентура; 1746, фальварак Мерачоўшчына каля мяст. Косава Слонімскага пав. Навагародскага ваяв., цяпер Івацэвіцкі р-н—15.10.1817), дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік *паўстання 1794*. Ахрышчаны 12.2.1746 у Косаўскім касцёле (дакладная дата нараджэння невядома). З роду *Касцюшкаў*. Бацька К., Людвік Тадэвуш, быў мечнікам Берасцейскага ваяв., маці, Тэкля з роду Ратамскіх, паходзіла з Аршанскага пав. У 1755—60 К. вучыўся ў *Любяшоўскім піярскім калегіуме*. У 1765 прыняты ў Рыцарскую школу (Кадэцкі корпус) у Варшаве. Выдатна скончыў вучобу ў чыне капітана. Па ініцыятыве кіраўніцтва ў 1769 пасланы ў Парыж для вывучэння артылерыі, архітэктуры і фартыфікацыі, быў слухачом у Акадэміі жывапісу і скульптуры. У 1774 вярнуўся на радзіму, але з-за цяжкага ма-



А.Т.Б.**Касцюшка**.

тэрыяльнага становішча не змог паступіць на вайсковую службу і ўладкаваўся хатнім настаўнікам у сям'і польнага пісара ВКЛ Ю.Сасноўскага. У 1775 выехаў у Парыж, у 1776 — у ЗША, каб прыняць удзел у змаганні паўн.-амерыканскіх штатаў за незалежнасць. 18.10.1776 залічаны ў амерыканскую армію ў чыне палкоўніка. На пасадзе гал. вайсковага інжынера арміі Поўначы ў 1777 удзельнічаў у будаўніцтве фартыфікацый пад Саратогай, у бітве пад якой было разгромлена буйное злучэнне англічан. Кіраваў будаўніцтвам найвялікшай цытадэлі ЗША у Вест-Пойнце. 13.10.1783 Кангрэс США надаў К. званне брыгаднага генерала; узнагароджаны ордэнам Цынцыната, атрымаў амерыканскае грамадзянства, пажыц-



Да арт. А.Т.Б.**Касцюшка**. Сядзіба Касцюшкаў у Мерачоўшчыне (на заднім плане — Косаўскі палац). Гравюра паводле малюнка Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.




А.Т.Б.**Касцюшка**. Паланэзы і вальсы. Тытульны ліст.

цёвую пенсію і зямельны надзел. У 1784 вярнуўся на радзіму, дзе зноў сутыкнуўся з матэрыяльнымі праблемамі; спрабаваў гаспадарыць у сваёй частцы родавага маёнтка Сяхновічы. У сувязі з павелічэннем войска Рэчы Паспалітай да 100 тыс. чал. кандыдатуру К. на пасаду ген.-маёра 12.10.1789 па рэкамендацыі берасцейскага сойміка падтрымалі сойм і кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. К. быў прызначаны ў кароннае войска, хоць сам жадаў служыць у войску ВКЛ. У час вайны з Расіяй 1792 у абарону рэформаў Чатырохгадовага сойма 1788—92 К. вызначыўся ў бітве пад Дубенкай як камандзір дывізіі ў арміі Ю.Панятоўскага. Узнагароджаны ордэнам «Віртуці Мілітары» з наданнем чына ген.-лейтэнанта (3.8.1792). У знак пратэсту супраць змовы караля з Таргавіцкай канфедэрацыяй 30.7.1792 падаў у адстаўку. 26.8.1792 пастановай Заканадаўчага сходу Францыі яму разам з Дж.Вашынгтонам, І.Песталоцы, Ф.Шылерам і інш. нададзена званне ганаровага грамадзяніна Францыі. У канцы 1792 К. пераехаў у Лейпцыг, цэнтр палітычнай эміграцыі Рэчы Паспалітай. У 1793 выязджаў у Парыж за дапамогай для падрыхтоўкі паўстання. Аднак ні жырандысты, ні якабінцы канкрэтнай дапамогі не аказалі. У жн. 1793 К. вярнуўся ў Лейпцыг, у пач. верасня прыняў прапанову прадстаўнікоў змовы ў Рэчы Паспалітай прыняць на сябе кіраўніцтва паўстаннем, якое пачалося 24.4.1794 з абвяшчэннем ў Кракаве Акта паўстання грамадзян. На кракаўскім рынку К. даў прысягу на вернасць паўстанню і абвясціў, што будзе змагацца за непарушнасць межаў дзяржавы, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду. У адпаведнасці з Актам паўстання К. ў маі 1794 прызначыў *Найвышэйшую нацыянальную раду*. За ім засталася пасада найвышэйшага начальніка ўзбр. сіл. У радзе К. імкнуўся прымірыць памяркоўных рэфарматараў з рэвалюцыйна настроенымі дзеячамі («якабінцамі»). Пасля ўтварэння *Найвышэйшай літоўскай рады* ўзніклі пэўныя непаразуменні паміж К. і кіраўніком паўстання ў ВКЛ Я.*Ясінскім*, інспіраваныя апанентамі апошняга. 1.4.1794 пачаўся марш К. на Варшаву, 4.4.1794 атрымана перамога пад в. Рацлавіцы. 7.5.1794 К. выдаў *Паланецкі універсал*, якім гарантавалася апека ўрада над сялянамі і яны абвяшчаліся асабіста вольнымі, але зямлі не атрымалі. У гэтым праявілася спроба К. заахвоціць да ўдзелу ў паўстанні сялянства і не адштурхнуць ад яго шляхту. У чэрв.—вер. 1794 К. ўзначальваў абарону Варшавы ад прускіх і рас. войск. 29—30.9.1794 К. разам са сваім сакратаром Ю.*Нямцэвічам* прыязджаў у Гародню для вайсковай нарады, у час якой уручыў удзельнікам паўстання ў ВКЛ залатыя пярсцёнкі з надпісам «Айчына свайму абаронцу». 10.10.1794 К., які камандаваў паўстанцкім войскам у бітве пад Мацяёвіцамі, трапіў паранены ў палон. Пад пільнай аховай і чужым прозвішчам («шляхціц Шыманскі») праз Кіеў, Чарнігаў, Магілёў, Шклоў, Віцебск і Ноўгарад 10.12. 1794 ён дастаўлены ў Пецярбург і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Толькі смерць Кацярыны II унесла змены ў яго лёс. 26.11.1796 К. наведаў Павел I і прапанаваў амністыю паўстанцам. Узамен за гэта К. павінен быў даць асабістую прысягу, што ён зрабіў 28 ліст., а 29 ліст. ўручыў Паўлу I ліст з прозвішчамі сваіх паплечнікаў, якіх той загадаў вызваліць. Імператар хацеў падараваць К. 1000 сялян і 12 тыс. рублёў, ад якіх К. пасля адмовіўся, як і ад прапановы паступіць на рас. службу. У канцы 1796 К. разам з Нямцэвічам выехаў у ЗША, дзе быў да 1798. Перад ад'ездам з ЗША К. пакінуў тастамент, дзе прызначыў пэўныя сумы на выкуп рабоў-неграў і іх адукацыю. У 1798 у Францыі К. меў сустрэчы з прадстаўнікамі Дырэкторыі і Напалеонам, якія імкнуліся выкарыстаць яго імя для арганізацыі паўстання ў акупіраваных Аўстрыяй землях Рэчы Паспалітай. Яны скончыліся безвынікова. 7.8.1798 К. ўступіў у Парыжы ў эмігранцкае «Таварыства рэспубліканцаў», дзе рашуча выказваўся за ўстанаўленне рэспубліканскага ладу ў аднаўленай Рэчы Паспалітай. Пасля падзення Напалеона К. двойчы ў 1814 і 1815 сустракаўся з Аляксандрам І, напісаў яму лісты, выказваючы занепакоенасць лёсам сваёй радзімы, будучыню якой не лічыў вырашанай канчаткова. Летам 1815 К. пераехаў у швейцарскі г. Салюр. 2.4.1817 падпісаў акт аб скасаванні прыгону сяхновіцкіх сялян (хоць фактычна яны яму ўжо не належалі). Пасля смерці К. яго забальзаміраванае цела перапахавана ў Кракаве на Вавелі. У памяць К. пад Кракавам насыпаны курган, яму пастаўлены помнікі ў Кракаве, Лодзі (Польшча), Вашынгтоне, Чыкага, Мілуокі, Кліўлендзе (ЗША), Салюры (Швейцарыя). Яго імем названы самая высокая гара Аўстраліі, адна з акруг штата Індыяна, горад у штаце Місісіпі, астравы на Алясцы (ЗША). Музей К. існуе ў Салюры.

*Літ.*: Korzon T. Kościuszko: Biografia z dokumentów wysnuta. Kraków, 1894; Яго ж. Kim i czem był Kościuszko. Warszawa; Kraków, 1907; Яго ж. Vademecum Kościuszkowskie: (Przewodnik dla kompilatorow czyli biografii Tadeusza Kościuszki) // Kwartalnik historyczny. 1917. Z. 4; Koneczny F. Tadeusz Kościuszko: Życie, czyny, duch. 2 wyd. Poznań, 1922; Островер Л.И. Тадеуш Костюшко. М., 1961; Rawski T. Kościuszko — wódz // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1968. T. 14, cz 1; Sulek Z. Polacy w wojnie o niepodległość Stanów Zjednoczonych, 1775—1783. Warszawa, 1976; Szyndler B. Tadeusz Kościuszko, 1746—1817. Warszawa, 1991; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...». Мн., 1994.

*Уладзімір Емяльянчык.*

**Касцюшкі**, беларускі шляхецкі род герба «Рох III». Першы вядомы прадстаўнік роду Фёдар памёр да 1509. Яго сын Канстанцін (Касцюшка), дзяк вялікакняжацкай канцылярыі, у 1509 атрымаў ад вял. князя Жыгімонта I Старога маёнтак Сяхновічы недалёка ад Берас-

ця (цяпер Жабінкаўскі р-н), ад назвы якога род часам называўся Касцюшкі-Сяхновіцкія. У 1528 баярын Канстанцін — суддзя і гараднічы камянецкі, выстаўляў у войска 3 коннікаў. Быў жанаты з князёўнай Ганнай Гальшанскай, памёр да 1561. Яго сыны Іван (?—1571) і Фёдар далі пачатак 2 галінам Касцюшкаў-Сяхновіцкіх: Іванавічаў (старэйшай) і Фёдаравічаў (малодшай). У 1561 браты падзялілі Сяхновічы.

Найб. вядомыя прадстаўнікі галіны Фёдаравічаў: Іван (Ян) Рыгоравіч, зямянін, пратэстант. Памёр у 2-й пал. 17 ст. Аляксандр Ян (29.12. 1629—1707?), сын Івана (Яна), зямянін, падсудак берасцейскі, пасол на соймы, удзельнік выбараў караля Яна III Сабескага (1674). Аўгусцін (1664—да 1722), сын Аляксандра Яна, суддзя гродскі троцкі. Амброжы Казімір (1667—1722?), сын Аляксандра Яна, пісар земскі берасцейскі, падчашы оўруцкі, войт кобрынскі і гарадзецкі. Фаўстын Бенядзікт (1672—1755), сын Аляксандра Яна, падстолі, стражнік берасцейскі, харужы кіеўскі. Францішак (1675—1722), сын Аляксандра Яна, скарбнік ваўкавыскі (берасцейскі). Людвік Тадэвуш (?—1757), сын Амброжы Казіміра, палкоўнік войска ВКЛ, мечнік берасцейскі. Бацька Т.*Касцюшкі* — апошняга прадстаўніка галіны Фёдаравічаў. Ян Непамуцэн (каля 1720—пасля 1788), харужы кіеўскі, мечнік оўруцкі (1764), пісар земскі житомірскі (1766), радца Барскай канфедэрацыі (1769), пасля паражэння якой эмігрыраваў у Венгрыю. Юзаф (1743—89), сын Людвіка Тадэвуша, абозны берасцейскі (1772), суддзя Гал. трыбунала ВКЛ (1766, 1771).

Найб. вядомыя прадстаўнікі галіны Іванавічаў: Ян (?—да 1715), войскі чырвонагародскі. Міхал (?—1708), стольнік оўруцкі, войт кобрынскі і гарадзецкі (1691, 1699, 1703, 1704). Антоній (?—да 1756), капітан войска ВКЛ. Павел, пісар гродскі, лоўчы берасцейскі (1699). Марцін, крайчы берасцейскі. Другі раз быў жанаты з Барбарай з Глеўскіх Касцюшкай, бабуляй Т.Касцюшкі па бацьку.

Інш. галіны К. былі вядомы ў Гарадзенскім пав., Навагародскім, Менскім, Мсціслаўскім (Касцюшкі-Валюжынічы), Полацкім ваяв., Інфлянтах. З іх найб. вядомыя: Адам Казімір (?—да 1729), мечнік і падчашы інфлянцкі, стараста зельборскі, ландгофмайстар і радца Курляндскага герцагства. Хрысціна, ігумення правасл. манастыра св. Ільі ў Слуцку ў сярэдзіне 17 ст.

*Літ.*: Korzon T. Kościuszko: Biografia z dokumentow wysnuta. Kraków, 1894.

***Уладзімір Емяльянчык.***



Да арт. **Кат**. Пакаранне ўдзельнікаў замаху на Станіслава Аўгуста Панятоўскага. 1773. Гравюра 18 ст.

**Касцялкоўскі** (Kościołkowski) Станіслаў Юльян (24.10.1881, Гродна—2.9.1960), польскі гісторык. Д-р філасофіі (1905), праф. звычайны (1937). Скончыў гімназію ў Гродне (1900), вучыўся ў Варшаўскім і Кракаўскім ун-тах. З 1906 выкладчык 1-й і 2-й мужчынскіх гімназій у Вільні. Адзін з заснавальнікаў Віленскага ун-та імя Стафана Баторыя, дзе з 1921 узначальваў кафедру гісторыі Польшчы. Адзін з заснавальнікаў Таварыства сяброў навук у Вільні, (у 1938—39 яго старшыня) і часопіса «Ateneum Wileńskie». Пасля закрыцця ун-та літ. урадам у 1939 узначальваў б-ку Таварыства сяброў навукі (з 1940 у складзе АН ЛітССР). У 1941 дэпартаваны на Урал. У 1942 вызвалены, разам з арміяй ген. У.Андэрса выехаў у Іран, пасля на Блізкім Усходзе. З 1950 у Англіі, выкладаў у Польскім ун-це ў замежжы (Лондан) і інш. Даследаваў дзейнасць А.*Тызенгаўза* і гаспадарчае развіццё ВКЛ у 2-й пал. 18 ст., гіст. адносіны Польшчы з краінамі Усходу; аўтар падручнікаў.

*Тв.*: Kilka szczegółów o korpusie kadetów w Nieświeżu // Litwa i Ruś. 1912. № 4; Iran i Polska na przestrzeni wieków. Bejrut, 1949; Polacy a Liban i Syria w toku dziejowym. Bejrut, 1949; Historyka: Wstęp do studiów historycznych. Londyn, 1954; Antoni Tyzenhauz, podskarbi nadworny litewski. T. 1—2. Londyn, 1970—71.

*Літ.*: Alma Mater Vilnensis. T. 5. Londyn, 1956; Długosz J. Stanisław Kościałkowski (1881—1960), uczony i patriota // Wilno—Wileńszczyzna... Białystok, 1992. T. 3.

**кат** (ад ням. Kate), містр, службовая асоба, якая выконвала смяротныя прыгаворы, учыняла паводле пастановы суда *катаванне*, а таксама забівала бяздомных сабак, вывозіла смецце. Пасада К. ўводзілася з 14 ст. ў гарадах з магдэбургскім правам. Паводле Статута ВКЛ 1588, кожны гродскі суд, асабліва ў гарадах без магдэбургскага права, павінен быў мець свайго К. Як знаўца анатоміі, К. часам займаўся лячэннем. Меў права ажаніцца з жанчынай, прыгаворанай да смерці, і тым уратаваць яе. Некалькі гарадоў маглі наймаць аднаго агульнага К., у сярэдзіне 17 ст. Слуцк меў двух. Памочніка К. называлі бутлем або гіцлем. Асоба, якая выконвала абавязкі К. ў немагдэбургскіх гарадах і па-за гродскім судом, наз. цэклярам.

*Літ.*: Obst J. Kat miasta Wilna // Litwa i Ruś. 1913. Z. 1—3; Bortnowski W. O mieczach katowskich miasta Wilna // Ateneum Wileńskie. 1939. Z. 1; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975. С. 171; Zaremska H. Niegodne rzemiosło: Kat w społeczeństwie Polski XIV—XVI w. Warszawa, 1986.

**катаванне**, мукі, у судаводстве ВКЛ пакаранне за пэўныя злачынствы; жорсткія фізічныя здзекі ў час следства. Ужывалася пераважна да ніжэйшых і сярэдніх слаёў насельніцтва. Выконвалася *катам*. Пакаранне смерцю найчасцей прыводзілі ў выкананне праз павешанне, за больш цяжкія зла-



чынствы — чвартавалі, садзілі на кол. Статут ВКЛ 1588 дазваляў катаваць тройчы на працягу аднаго дня. Мела месца ў судаводстве да сярэдзіны 18 ст.

*Павел Лойка.*

**Катлубай** Эдвард (1822 або 1823, Вільня—люты 1879), гісторык. З шляхецкай сям'і. Скончыў Інжынерную акадэмію ў Пецярбургу (1842). Служыў ваенным інжынерам, з 1844 у адстаўцы, жыў у радавым маёнтку Курклішкі (Троцкі пав.). Жывучы некаторы час у сваякоў каля Нясвіжа і маючы вольны ўваход у замкавы архіў, сабраў багатыя звесткі пра Радзівілаў, якія апублікаваў у кнізе «Нясвіжская галерэя Радзівілаўскіх партрэтаў» (1857). У ёй змешчаны гравіраваныя партрэты Радзівілаў Міхала Старкмана, зробленыя з малюнкаў К., і біяграфічныя артыкулы пра Радзівілаў, напісаныя К. на падставе дакументаў Нясвіжскага архіва. Да 20 ст. кніга была самым аўтарытэтным даведнікам пра Радзівілаў; некаторыя са змешчаных у ёй партрэтаў не захаваліся. Паводле архіўных крыніц К. напісаў падрабязную біяграфію польнага гетмана ВКЛ Януша Радзівіла. У час паўстання 1863—64 у Курклішках хаваліся паўстанцы, за што маёнтак канфіскаваны. К. доўгі час працаваў у Расіі на будаўніцтве чыгунак. Склаў «Геральдычна-гістарычны атлас». Аўтар «Ваеннай гісторыі Польшчы» (ад часоў Яна III Сабескага), гіст. апавяданняў. Член Італьянскай геральдычна-генеалагічнай акадэміі ў Пізе і Археалагічнага т-ва ў Львове. Рукапісы К. былі перададзены Акадэміі навук у Кракаве.

*Тв.*: Galeria Nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857; Odsiecz Smoleńska i pokój polanowski. Kraków, 1858; Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Jadwiga Jagiellonka, elektorowa brandenburska // Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza (1798—1898). Warszawa, [1898]. T. 2; Літ. пер. — Radvilos: Nesvyžiaus galerijos portretai. Vilnius, 1995.

**Катлы**, К о ц е л ы, шляхецкі род герба «Пелікан». Паводле падання, запісанага ў гербоўніках А.*Каяловіча*, К.*Нясецкага* і інш., паходзілі ад славянскага князя 9 ст. Коцела, які прыняў хрышчэнне ад святых Кірылы і Мяфодзія. З гэтай прычыны змяшчалі над родавым гербам выяву з княжацкай шапкай. На самай справе паходзілі з баяр ВКЛ. Першы вядомы прадстаўнік роду — Кацёл, які ў 1440—43 атрымаў ад вял. князя Казіміра пацвярджэнне на маёнткі Смыкаў, Камарын і Зазарце ў Крамянецкім пав. Найб. вядомыя:

С а м у э л ь  Г е р а н і м (?—10.10. 1685), сын Яраша. Пісар скарбовы ВКЛ у 1649—66, войскі старадубскі ў 1652—58, ашмянскі падкаморы з 1666 і маршалак з 1678, стараста скірстымонскі. Неаднаразова выбіраўся паслом на соймы, дэпутатам для рэвізій скарбу ВКЛ. Заклаў падмурак заможнасці роду. У 1653 купіў частку Беніцы, набываў вёскі ў Сапегаў, з 1668 трымаў Шавельскую эканомію.

М і х а л  К а з і м і р (?—6.10. 1722), сын Самуэля Гераніма. Стараста скірстымонскі з 1674, маркаўскі з 1683, падкаморы ашмянскі з 1683, кашталян віцебскі з 1685, троцкі з 1700, ваявода троцкі з 1703, вял. падскарбі ВКЛ з 1710. Быў прыхільнікам аўтаноміі ВКЛ у рамках Рэчы Паспалітай, варагаваў з Сапегамі. У 1698, калі стаў маршалкам Трыбунала ВКЛ, вакол яго з'ядналася антысапегаўскае кола шляхты, якое абвясціла Міхала Казіміра генеральным палкоўнікам ваяводстваў і паветаў ВКЛ. У 1698 абвясціў збор паспалітага рушэння для барацьбы з Сапегамі, удзельнічаў у Алькеніцкай бітве 1700. У час Паўн. вайны 1700—21 займаў антышведскую пазіцыю. Меў шматлікія маёнткі, у т.л. Хажова, Палонку, Беніцу, Ганута, Маладзечна; у 1699—1703 трымаў Мсціслаўскае староства, потым стараста радунскі і краснасельскі.

Т а д э в у ш (1736—99), сын Казіміра. Стараста маркаўскі (1764), ашмянскі (1772), ген.-маёр войска ВКЛ.

Ю з а ф (20.9.1764—18.7.1810), сын Тадэвуша. Стараста больніцкі і яліцкі, валодаў Гарадзілавам і Юзафполлем у Ашмянскім пав. Пасол ад Ашмянскага пав. на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*, прыхільнік *Канстытуцыі 3 мая 1791*, чл. «Таварыства сяброў урадавай канстытуцыі». З пачаткам *паўстання 1794* увайшоў у *Найвышэйшую літоўскую раду*, чл. Дэпутацыі публічнай бяспекі. 3.5.1794 рада абрала яго адным са сваіх прадстаўнікоў пры камандуючым паўстанцкімі войскамі ВКЛ Я.*Ясінскім* для кантролю за яго дзеяннямі. У маі 1794 пасланы радай да Т.Касцюшкі, каб пераканаць паўстанцкія ўлады ў Варшаве ў лаяльнасці, што не прадухіліла роспуск рады. 8.6.1794 *Найвышэйшая нацыянальная рада* ў Варшаве прызначыла яго сваім упаўнаважаным у ВКЛ. 30.6.1794 Касцюшка ўвёў яго ў склад гэтай рады (намеснікам радцы). Належаў да памяркоўнага крыла паўстання, быў палітычным праціўнікам «якабінцаў» і Ясінскага. Радыкальныя колы паўстання абвінавачвалі яго ў бяздзейнасці ў час штурму рас. войскамі Вільні, у нежаданні ўзбройваць сялян. Пасля падаўлення паўстання жыў у Венецыі, Парыжы, зблізіўся з радыкальнымі коламі эміграцыі. Пахаваны ў Беніцы.

М і х а л  К а з і м і р (15.8.1767— 22. 3.1813), сын Тадэвуша. Шамбялян караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1786). Узначальваў ашмянскую парадкавую цывільна-вайсковую камісію. У час вайны 1792 супраць рас. войск ротмістр 28-й (пінскай) харугвы 2-й брыгады нац. кавалерыі. У час паўстання 1794 зямянскі ген.-маёр Ашмянскага пав. Далейшы лёс невядомы. Пахаваны ў Беніцы.

*Валерый Пазднякоў.*

**Катлярчук** Андрэй (н. 17.7.1968, г. Новачаркаск Растоўскай вобл., Расія), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (2006), канд. гіст. навук (1999). Скончыў Бранскі дзярж. ун-т (1993), аспірантуру пры Кунсткамеры ў С.-Пецярбургу (1998), дактарантуру Стакгольмскага ун-та (2005). Выкладчык ун-та Содэрторн у Стакгольме. Даследуе міжнар. адносіны і культ. кантакты паміж Швецыяй, ВКЛ, Украінай і Расіяй у 17—18 ст., гісторыю культуры і рэлігійныя адносіны ў ВКЛ у 17 ст.

*Тв.*: Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII века: официальные церемонии и крестьянская обрядность. СПб., 2001; Швэды ў гісторыі й культуры Беларусі. Мн., 2002; In the Shadows of Poland and Russia: The Grand Duchy of Lithuania and Sweden in the European Crisis of mid-17th Century. Stockholm, 2006.

**Като** (К а т о н) Дыямед (пасля 1560, Венецыя — пасля 1607), еўрапейскі кампазітар і лютніст-віртуоз. Музычную адукацыю атрымаў у Італіі. У 1588 трапіў на каралеўскі двор Жыгімонта III Вазы, дзе працаваў лютністам да 1593. У складзе каралеўскай світы наведаў розныя гарады Швецыі, а таксама Гданьск і Вільню. У 1600—02 пра-



цаваў у прускага падскарбія Станіслава Косткі, пасля чаго зноў вярнуўся да караля і прадоўжыў працу прыдворнага лютніста. Музычная спадчына К. пададзена пераважна лютневымі і арганнымі сачыненнямі: фантазіямі, прэлюдыямі, танцамі, апрацоўкамі мадрыгалаў і гальярдаў, інш. вакальных твораў. Відаць, яго пяру належыць і зборнік п'ес для лютні («Віленскі сшытак»), які змяшчае шэраг інструментальных мініяцюр — рычэркараў, такат, разнастайных танцаў, апрацовак канцон і інш. вакальных твораў. Аўтар вакальных кампазіцый — песень, мадрыгалаў, матэтаў і інш. Творы музыканта адзначаны высокім майстэрствам, дасканалым валоданнем прыёмамі рэнесансавага поліфанічнага стылю і дакладным веданнем выканальніцкіх магчымасцей розных інструментаў.

*Вольга Дадзіёмава.*

**Катовічы**, шляхецкі род герба «Корчак». Вядомы з 15 ст. У судовым прыгаворы 1499 вял. князя Аляксандра ўпамінаюцца баяры Шандар, Пётр і Івашка К. і іх дзед Кот. У 16—18 ст. К. мелі маёнткі ў Віцебскім ваяв., Гарадзенскім, Браслаўскім, Ковенскім пав., на Валыні. Найб. вядомыя:

Павел Юр'евіч, дваранін каралеўскі ў 1556, падкаморы гарадзенскі ў 1568, архімандрыт гарадзенскі і супрасльскі ў 1568—80.

Андрэй Францішак (?—1682), сын Рыгора. У 1638 падарожнічаў з каралевічам Янам Казімірам па Еўропе. Стараста гарадзенскі з 1652, кухмістр ВКЛ у 1657—58, адначасова гараднічы і драўнічы віленскі ў 1657—65, вял. пісар ВКЛ у 1658—72, адміністратар Кобрынскай эканоміі ў 1670—79, кашталян віленскі з 1672.

Аляксандр (каля 1622—30.11. 1686), сын Яна. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, у 1652 у Падуанскім ун-це. Канонік смаленскі з 1652, віленскі канонік з 1657 і схаластык з 1661, каралеўскі сакратар, рэгент вял. канцылярыі ВКЛ у 1664—72. У 1671 сакратар пасольства ў Маскву. Біскуп смаленскі з 1672 і віленскі з 1684. У 1685 заснаваў Віленскі кляштар місіянераў.

Астафій Станіслаў Казімір (1637, мяст. Адэльск Гарадзенскага пав.—1704), сын Яна. З 1661 святар. Канонік віленскі з 1669, рэферэндар духоўны ВКЛ у 1673—87, віленскі прэпазіт з 1681 і схаластык з 1682, біскуп смаленскі з 1687. Быў вядомы як знаўца права, прапаведнік, тэолаг.

Рыгор Юзаф (?—да 24.3. 1724). Гарадзенскі харужы ў 1699—1700 і падстараста ў 1699—1704, палкоўнік каралеўскі ў 1701, стараста гарадзенскі з 1706, лоўчы ВКЛ з 1710. Прыхільнік Сапегаў, на іх баку ўдзельнічаў у Алькеніцкай бітве 1700. У час Паўн. вайны 1700—21 спачатку ваяваў супраць шведаў, потым на баку караля Станіслава Ляшчынскага. Пасля рэстаўрацыі Аўгуста II у 1709 ваяваў супраць шведаў і Сапегаў, выступаў за вывад рас. войск з ВКЛ.

*Валерый Пазднякоў.*

**Катэнбрынг** (Katenbring) Юзаф (18.7.1730, Добрэ-Места ў Варміі, Польшча—каля 1805), польскі пісьменнік, педагог. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. У 1745 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1758 ксёндз. Вучыўся ў Браневе, Святой Ліпцы, Вільні. З 1749 выкладчык паэтыкі, граматыкі, рыторыкі і нямецкай мовы ў Нясвіжы, у 1760—64 узначальваў там друкарню, пасля выкладаў у Гародні, з 1767 прэфект калегіума і выкладчык у кадэцкім корпусе ў Нясвіжы, у 1770—71 прэфект калегіума ў Менску, у 1771—73 — у Полацку. Зблізіўся з М.К.*Радзівілам* Рыбанькам і К.С.*Радзівілам* Пане Каханку, прысвячаў ім свае творы. У Нясвіжскім калегіуме былі пастаўлены барочныя трагедыі К. «Марнасць над марнасцю, або Томас Паўнд» («Prożność nad próżnościami abo Tomasz Poundus», Нясвіж, 1755) і «Сіроэс» («Syroes», 1758, тэкст загінуў). Выдаў у Нясвіжы некалькі казанняў на польскай мове. Пісаў лацінскія вершы, частка якіх увайшла ў зб. «Сотня Марыі» («Saeculum Marianum», Вільня, 1764). Быў вядомы як прапаведнік і бібліяфіл. У 1772 і 1773 наведваў Пецярбург у складзе дэлегацыі, якія абмяркоўвала планы ўладкавання ордэна ў Рас. імперыі. З гэтай нагоды напісаў на лац. мове паэму «Пецярбург — царыца паўночных гарадоў» («Petropolis urbium septentrionalium regina», без пазначэння месца выдання, 1773). У 1774 наведаў езуіцкія ўстановы ў паўн.-ўсх. Беларусі для іх новага ўладкавання, пасля выйшаў з ордэна. У 1775 як выхавацель Г.Радзівіла выехаў у Германію. З 1777 пробашч у Нясвіжы, дзе трымаў парафіяльную школу. Меў тытулы каноніка луцкага, з 1780 — кусташа смаленскага, у 1804 прэлат у Менску.

**катэхізіс** (ад грэч. katēchēsis павучанне), выклад, тлумачэнне асноў хрысціянскай веры ў сістэматызаваным выглядзе і даходлівай форме (звычайна ў пытаннях і адказах). У К. звычайна тлумачыліся важнейшыя хрысціянскія малітвы, запаветы, сакраманты, некаторыя догматы. Выкарыстоўваецца для навучання моладзі або дадатковай адукацыі святароў і як тэкст належыць да дыдактычнай л-ры. К. карысталіся ў школьнай адукацыі, кароткія К. часта ўключаліся ў склад буквара або лемантара. У каталіцкай царкве К. склаўся ў 11—13 ст. (адна з распаўсюджаных ранніх форм — «Луцыдарый»), але асаблівую папулярнасць набыў з пачаткам Рэфармацыі; у пач. 16 ст. ўзнікла і назва «К.». Вядомасць набылі К. пратэстантаў: М.Лютэра (1529) — Вялікі (для святароў) і Малы (для вернікаў), Ф.Меланхтана (1549), Ё.Брэнца (1551), Ж.Кальвіна (1537—45), Гайдэльбергскі (1563), Вестмінстэрскі (1647). Каталіцкім адказам на іх сталі грунтоўна распрацаваныя езуіцкія К., найб. папулярны з іх — П.Канізія (1555—59). Як тып тэксту К. быў прынесены да ўсх. славян з Захаду і існаваў на старабел., радзей на царк.-слав. мовах як перакладны ці арыгінальны твор, звычайна друкаваны. Практычна кожная хрысціянская канфесія ў ВКЛ выдала свой К. Пратэстанцкі (кальвініцкі) «Катэхізіс» (Нясвіж, 1562) склаў С.Будны. Каталіцкі «Катэхізм Пятра Канізія» (Вільня, 1585) быў перакладзены на старабел. мову з лацінскай езуітамі. Уніяцкі К. «Навука як верыць» (Вільня, 1628) быў надрукаваны базыльянамі і, відаць, уяўляе сабой публікацыю рукапісу І.Кунцэвіча. У 18 ст. бел. уніяты выдалі К. для вясковых святароў «Збор выпадкаў кароткі» (Супрасль, 1722; Унеў, 1732; Трнава, 1727), дзе выкладаліся пастановы Замойскага сабора 1720. Правасл. К. пачынаюцца з твораў братоў Зізаніяў. Кароткі К. выдаў С.Зізаній у складзе буквара (Вільня, 1596). Л.Зізаній выдаў свой К. на царк.-слав. мове (Масква, 1627), аднак прававернасць яго твора выклікала падазрэнні ў маскавітаў, і публікацыя не атрымала па-

шырэння. Правасл. К. склаў Сільвестр Косаў, яго «Дыдаскалія» (Куцейна, 1637, 1638, 1653; Крамянец ці Луцк, 1638; Львоў, 1642) прызначалася для вясковых святароў. К., створаны Феафанам Пракаповічам, выдала правасл. брацтва на царк.-слав. мове (Магілёў, 1757, 1761). Асн. правасл. К. у ВКЛ стаў «Збор кароткай навукі аб артыкулах веры» (Кіеў, 1645; Львоў, 1646), падрыхтаваны пад кіраўніцтвам Пятра Магілы і папулярны ў Расіі да пач. 18 ст. З канца 17 ст. на Украіне выдавалася шмат уніяцкіх К. (ва Уневе, Пачаеве, Львове), якія выкарыстоўваліся і на Беларусі. Магчыма, існавалі інш. выданні К., але не захаваліся.

*Публ.*: Голубев С. Т. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники. Киев, 1898. Т. 2: Прил., с. 206—226, 358—487; Ильинский Ф.М. Большой Катехизис Лаврентия Зизания // Тр. Киевской духовной академии. 1898. № 2, 5, 6, 8, 10; 1899. № 3; Катехизис Петра Могили / Упоряд. А.Жуковський, пер. В.Шевчука. Київ; Париж, 1996; Саверчанка І.В. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998. С. 245—271; Fałowski A. Język ruskiego przekładu Katechizmu jezuickiego z 1585 roku. Kraków, 2003. C. 111—163; Катэхізіс: Помнік бел. Рэфармацыі XVI ст. / Адапт. тэкст, перакл. Н.Кабелка. Мн., 2005.

*Літ.*: Саверчанка І.В. Хрысціянскі катэхізіс у кніжна-пісьмовай культуры ўсходніх славян эпохі Адраджэння і Барока: Атрыбуцыя, паэтыка, семіётыка. Мн., 1998; Fałowski A. Najstarsze katechizmy zachodnioruskie // Język ukraiński — współczesność, historia = Українська мова — сучасність, історія. Lublin, 2003; Клімаў І.П. Беларускія і ўкраінскія катэхізісы 16—18 стст. // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2005. Вып. 6.

***Ігар Клімаў.***

**Каўнас** (Kaunas), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр павета і раёна, гл. *Коўна*.

**Каханоўскі** Генадзь Аляксандравіч (8.1.1936, в. Дамашы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.—15.1.1994), беларускі гісторык, краязнавец, фалькларыст, літаратуразнавец. Д-р гіст. навук (1992). Скончыў Маскоўскі педагагічны ін-т (1963). Працаваў у Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў г. Маладзечна, з 1982 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, у 1991—94 — у Нац. навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны. Даследаваў развіццё археалогіі, краязнаўства, музейнай справы, пытанні аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Увёў у навук. ўжытак шэраг выяўленых у архівах невядомых раней дакументаў і твораў. Аўтар літ.-краязнаўчых нарысаў. Першы старшыня Бел. краязнаўчага т-ва (1989—94).

*Тв.*: Маладзечна: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1971 (2 выд. 1988); Вілейка: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1974; Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984; Повязь часоў. Мн., 1985; Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989 (з Л.А.Малаш, К.А.Цвіркам); Прадвесне навукі. Мн., 1990; А сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю...: З біяграфіі М.Багдановіча. Мн., 1991; Руплівец нашай старасветчыны: Яўстах Тышкевіч. Мн., 1991 (з А.Г.Каханоўскім).

**Каханоўскі** (Kochanowski) Ян (1530, в. Сыцына каля г. Радам, Польшча — 22.8.1584), польскі паэт. З 1544 вучыўся ў Кракаўскім, Каралявецкім, Падуанскім ун-тах. Пісаў на лацінскай і польскай мовах. Аўтар паэм «Шахматы» (1566), «Муза» (1567), «Сцяг, або Пруская прысяга» (1569), трагедыі «Адказ грэчаскім паслам» (1578) і інш. Пераклаў «Псалмы Давіда» (1578). Творы на польскай мове (арыентаваныя на еўрапейскія ўзоры) прасякнуты патрыятызмам («Згода», 1564), у іх узняты тэмы грамадскіх адносін («Сатыр, або Дзікі муж», 1564). Выдаў 3 кнігі «Фрашак» (1584) — жартоўна-роздумных мініяцюр. Вяршыня яго паэтычнага майстэрства — «Песні» (кн. 1—2, 1586), у якіх філасофская змястоўнасць спалучалася з прастатой выказвання, і «Трэны» (1580) — элегічныя вершы, напісаныя на смерць дачкі Уршулі. Гуманістычны змест твораў, версіфікатарская культура К. спрыялі станаўленню нац. паэзіі Польшчы, уплывалі на бел. паэзію, на творчасць А.Рымшы, Сімяона Полацкага (свае пераклады «Псалмаў Давіда» рабіў на ўзор К.), пазней У.Сыракомлі, В.Дуніна-Марцінкевіча і інш. Відаць, К. нейкі час знаходзіўся пры двары М.Радзівіла Чорнага (Бярэсце, Нясвіж), дзе пазнаёміўся з С.Будным. Прысвяціў шэраг твораў Радзівілу Чорнаму, яго жонцы Альжбеце і акраверш Крыштофу Радзівілу. У «Канцыянале», выдадзеным у Нясвіжскай друкарні ў 1563, змясціў гімн «Чаго хочаш ад нас... ». Напісаў песню «Узяцце Полацка» (1580).



Я.**Каханоўскі**. Яго герб «Корвін» і партрэт. Гравюры з кн. Б.Папроцкага «Гняздо цноты». Кракаў. 1578.

*Тв.*: Dzieła wszystkie: Wydanie sejmowe. T. 1—2, 4, 7. Warszawa, 1983—97; Dzieła polskie. Warszawa, 2002; Рус. пер. — Стихотворения. М., 1980.

*Літ.*: Jan Kochanowski: Epoka—Twórczość—Recepcja. T. 1—2. Lublin, 1989; Pelc J. Kochanowski: Szczyt renesansu w literaturze polskiej. 3 wyd. Warszawa, 2001.

***Уладзімір Мархель.***

**Кахлеўскі** (Kochlewski) Пётр (?, Польшча—14.5.1646), палітычны і рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік. Вызнаваў кальвінізм. У маладосці стаў дваранінам К.*Радзівіла* і пасяліўся ў ВКЛ, у Берасцейскім пав. набыў вёскі Барышын, Воля Нурэцкая, Дужы Лес, Зубачы, Клюковічы, Ломна, Нурэц, Тумін, Цяляцічы, стаў дзяржаўцам каралеўскага маёнтка Палонцы. У 1621—22 у Інфлянтах прымаў удзел у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, у перагаворах са шведамі ў 1622 і 1624. Калі быў у Зах. Еўропе, выконваў тайныя даручэнні Радзівіла па падрыхтоўцы перавароту, каб скінуць Жыгімонта III і замяніць яго герцагам Гастонам Арлеанскім. Пасля раскрыцця змовы хаваўся ад улад і часова адышоў ад палітычнай дзейнасці. Шмат ра-

зоў у 1632—40 быў паслом на соймы, дзе адстойваў інтарэсы дысідэнтаў. Быў бургграфам Кейдан, з 1635 берасцейскі войскі, з 1638 суддзя земскі. У 1633—45 пастаянны ўдзельнік кальвіністкіх правінцыяльных сінодаў у Вільні, часта выбіраўся на генеральныя сіноды. У 1638 пабудаваў у Нурцы кальвінскі збор са школай і шпіталем. Аўтар польска- і лацінскамоўных паэм, эпітафій (у т.л. на смерць Я.Радзівіла ў 1620), вершаў, рэлігійных твораў «Перасцярога і настаўленне набожнага евангеліка для братоў таго ж веравызнання» («Pobożnego Ewangelika do braciej tegoż wyznania przestroga i napomnienie»), «Меркаванне безыменнага евангеліка аб рэлігійнай талерантнасці ў Польшчы» («Zdanie bezimiennego Ewangelika o tolerancji religijnej w Polsce»), тастамента «Мемарыял, або Настаўленне для жонкі і дзяцей маіх» («Memoriał albo napomnienie do Małżonki i dziatek moich», 1646) і інш.

*Літ.*: Trawicka Z. Działalność polityczna i reformacyjna Piotra Kochlewskiego // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1963. T. 8; Jarczykowa M. Piotr Kochlewski w drukach XVII-wiecznych // Prace Naukowe Uniwersytetu Śląskiego w Katowicach. Nr 2298. Studia bibliologiczne. Tom 15. Katowice, 2005.

***Валерый Пазднякоў.***

**Кацар** Міхаіл Сяргеевіч [25.10(7.11).1906, в. Клімавічы Сенненскага пав., цяпер Сенненскі р-н—30.3.1995], беларускі гісторык мастацтва, педагог. Д-р мастацтвазнаўства (1952), праф. (1956). Скончыў Маскоўскі ін-т гісторыі, філасофіі і л-ры (1939). Удзельнік Вял. Айч. вайны. З 1946 у АН БССР: да 1950 у Ін-це мовы, л-ры і мастацтва (з 1947 заг. сектара выяўленчага мастацтва), з 1950 у Ін-це л-ры і мастацтва, у 1957—73 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (у 1957—64, 1969—70 заг. сектараў выяўленчага мастацтва і збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі). Адначасова ў 1953—56 заг. кафедры выяўленчага мастацтва Бел. тэатральнага ін-та. Аўтар кніг па гісторыі бел. страраж. і сучаснага выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і архітэктуры, асобных артыкулаў для «Гісторыі мастацтва народаў СССР» («История искусства народов СССР», Москва, т. 3—4, 1974—76; 7—8, 1972—77).

*Тв.*: Белорусская советская скульптура. Мн., 1954; Белорусская архитектура: Ист. очерк. Мн., 1956; Скульптура Савецкай Беларусі. Мн., 1957; Нарысы па гісторыі выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі. Мн., 1960; Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки. Мн., 1969; Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.). Мн., 1972; Беларускі арнамент: Ткацтва, вышыўка, Мн., 1996.

**Кацэбу** (Kotzebue) Аўгуст Фрыдрых Фердынанд фон (3.5.1761, г. Веймар, Германія—23.3.1819), нямецкі пісьменнік, публіцыст, гісторык. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1815), д-р філасофіі. Скончыў Іенскі ун-т (1780). Служыў на адм. пасадах, займаўся выдавецкай дзейнасцю. У 1781—90, 1795—97, 1800—01, 1807—13 жыў у Расіі (Пецярбург, Прыбалтыка). З 1813 выдаваў у Берліне па заказе рас. імператара Аляксандра I час. «Russisch-deutsches Volksblatt» («Руска-нямецкі народны лісток»). Забіты студэнтам К.Ф.Зандам як «рэакцыянер» і «рускі шпіён». Аўтар раманаў, апавяданняў, драм. Падзеям гісторыі ВКЛ прысвяціў грунтоўную працу «Світрыгайла, вялікі князь літоўскі...» (1820; рус. пер. 1835), дзе змешчаны звесткі з твораў літ., нямецкіх і рус. гісторыкаў (А.Каяловіч, Геніг, В.М.Тацішчаў, М.М.Шчарбатаў і інш.), а таксама з дакументальных крыніц. Найбольш каштоўным з'яўляецца выкарыстанне актаў з Кёнігсбергскага сакрэтнага архіва, што высока ацэнена М.М.Карамзіным. К. лічыў Свідрыгайлу адным з самых выдатных князёў ВКЛ, незаслужана прыніжаным ранейшымі гісторыкамі.

***Юрый Бажэнаў.***

**Кацярына I** [5(15).4.1684, каля Марыенбурга, цяпер г. Алуксне, Латвія—6(17).5.1727], расійская імператрыца [1725—27]. Сапраўднае імя Марта Скаўронская. Паходзіла з бел. сялян Менскага ваяв., прыгонных Сапегаў, католікаў. Яе бацька Самуіл Скаўронскі (паводле інш. звестак, Янка Скаўрашчук, Скаварошчанка або Скаварацкі) уцёк у Інфлянты, дзе арандаваў фальварак каля Марыенбурга. Бацькі Марты памерлі ў час эпідэміі, яе ўзяў на выхаванне і перавёў з каталіцтва ў лютэранства пастар Э.Глюк з Марыенбурга. У жн. 1702 выйшла замуж за шведскага драгуна Ё.Рабэ. На пач. верасня 1702 пасля ўзяцця Марыенбурга рас. арміяй трапіла ў палон да Б.Шарамецева, які перадаў яе фаварыту цара Пятра I А.Д.Меншыкаву, а той саступіў цару. Марта прыняла праваслаўе і атрымала імя Кацярына Аляксееўна. З 1705 фактычна жонка цара, у 1710 атрымала тытул гасударыні. Выйшла замуж за цара ў лют. 1712, нарадзіла 8 дзяцей, з якіх засталіся 2 дачкі — Ганна (1708—28), герцагіня гальштэйнская, маці рас. імператара Пятра III, і Лізавета (1709—62), будучая рас. імператрыца. Разам з Пятром I удзельнічала ў Пруцкім паходзе 1711, дзе, ахвяраваўшы свае каштоўнасці, правяла збор грошай сярод афіцэраў і салдат, каб падкупіць турэцкага пашу і даць магчымасць арміі выйсці з акружэння. Пасля паходу Пётр I у 1714 заснаваў для ўзнагароджання жанчын ордэн святой Кацярыны. Мела ўплыў на цара. Вакол К. I гуртавалася новая знаць, у т.л. выхадцы з Беларусі: Меншыкаў, П.І.Ягужынскі, П.П.Шафіраў і інш. К. I прымала ўдзел у барацьбе супраць групоўкі царэвіча Аляксея Пятровіча, каб адхіліць яго ад трона і забяспечыць яго сваім дзецям. У 1724 каранавана як імператрыца. У тым годзе ледзь не страціла статус з-за любоўнай сувязі са сваім камергерам В.І.Монсам, які быў пакараны смерцю. Пасля смерці Пятра I 28.1(8.2).1725 дзякуючы падтрымцы гвардзейскіх палкоў і новай знаці на чале з Меншыкавым К. I абвешчана імператрыцай. Сама К. I дзярж. справамі не займалася. У час яе панавання рас. ўрад пачаў выкупляць з прыгону ў паноў на Беларусі і ў Літве братоў і сясцёр К. I. Яны і іх нашчадкі ў 1742 ад імператрыцы Лізаветы Пятроўны атрымалі графскія тытулы (Скаўронскія, Гендрыкавы, Яфімоўскія). У 1727 К. I выдала замуж за Пятра Сапегу сваю пляменніцу Соф'ю Скаўронскую, бацька П.Сапегі Ян Казімір у 1726 атрымаў чын рас. ген.-фельдмаршала. Пасля смерці К. I трон наследаваў сын царэвіча Аляксея Пятровіча Пётр II [1727—30].

*Літ.*: Очерки истории СССР: Период феодализма: Россия во второй четверти XVIII в. М., 1957; Павленко Н.И. А.Д.Меншиков. 3 изд. М., 1989; Андреев В. Представители власти в России после Петра I. Мн., 1990; Семевский М.И. Царица Катерина Алексеевна, Анна и Виллим Монс, 1692—1724. Л., 1990; Соловьев С.М. Сочинения. Кн. 9—10. М., 1993.

***Анатоль Грыцкевіч.***



**Кацярына II**. Мастак Э.Віргіліус. Пасля 1762.

**Кацярына II** [21.4(2.5).1729, г. Шчэцін—6(17).11.1796], расійская імператрыца [1762—96]. Народжаная нямецкая прынцэса Софія Фрэдэрыка Аўгуста Ангальт-Цэрбсцкая. З 1744 жонка будучага рас. імператара Пятра III. Выкарыстаўшы непапулярнасць мужа сярод радавітага дваранства, з дапамогай гвардыі ўчыніла дварцовы пераварот і захапіла прастол. У 1760-я г. праводзіла палітыку «асветнага абсалютызму». Пры ёй заснавана Вольнае эканам. т-ва, пачата Генеральнае межаванне. Гал. заканадаўчыя акты К. II: Устанаўленне для кіравання губерняў 1775, Даравальная грамата дваранству 1785, Даравальная грамата гарадам 1785 — упарадкавалі дзярж. апарат кіравання і канчаткова афармілі саслоўныя прывілеі дваранства. Падавіла сялянскую вайну пад кіраўніцтвам Е.Пугачова 1773—75. Знешняя палітыка характарызавалася ўзмоцненай тэр. экспансіяй на Пд і З — у абсягі турэцкага панавання і Рэчы Паспалітай. У выніку рас.-турэцкіх войнаў 1768—74 і 1787—91 да Расіі далучаны Паўн. Прычарнамор'е і Крым, забяспечана панаванне на Каўказе. Прамое ўмяшанне ў справы Рэчы Паспалітай К. II пачала з узвядзення на прастол аднаго са сваіх фаварытаў — *Станіслава Аўгуста Панятоўскага* і завяршыла 3 падзеламі Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795), у выніку якіх да Расіі адышлі землі Беларусі, Правабярэжнай Украіны і Літвы. Вяла барацьбу супраць Французскай рэвалюцыі 1789—94, прагрэсіўных пераўтварэнняў у Рэчы Паспалітай, дзе задушыла *паўстанне 1794*. Выдавала сябе за абаронцу інтарэсаў праваслаўных і пратэстантаў ад каталіцкага ўціску. Далучаныя тэр. Беларусі і Украіны лічыла спрадвечна рускімі, праводзіла цэнтралізатарскую палітыку з мэтай зліцця іх з асн. рас. рэгіёнамі: стварыла тут адм. органы і ўстановы на агульнарас. ўзор, правяла губернска-павятовы падзел тэрыторыі, ключавыя пасады аддавала чыноўнікам з цэнтр. Расіі. Мясцовая шляхта атрымала правы рас. дваранства пры ўмове прынясення прысягі на падданства Расіі. Маёнткі страчвалі толькі тыя феадалы, якія заставаліся за мяжой ці выступалі супраць новай улады. На Беларусі рус. памешчыкам і чыноўнікам яна раздала больш за 180 тыс. рэвізскіх душ. На землі Беларусі была пашырана рас. падатковая сістэма, уведзена рэкруцкая павіннасць, скасавана магдэбургскае права, а на гарады і мястэчкі, прызначаныя цэнтрамі паветаў, пашыраны прынцыпы рас. гарадскога самакіравання. Для яўрэйскага насельніцтва ў 1794 вызначана мяжа яўрэйскай аселасці, якая ўключала бел. і частку ўкр. губерняў. У цэлым была захавана канфесіянальная сітуацыя, якая склалася раней, дзейнічаў нават забаронены папам рымскім ордэн езуітаў. Але каталіцкаму і уніяцкаму духавенству было забаронена схіляць у сваю веру праваслаўных. У час паўстання 1794 К. II паспрабавала перавесці уніятаў у праваслаўе (указ ад 22.4.1794), але не давяла гэту справу да канца. Пры ёй пакладзены пачатак пераарыентацыі эканам., паліт. і культ. жыцця Беларусі на Усход, зроблены першыя крокі для адкрыцця рус. школ у губернскіх і павятовых гарадах, увядзення выкладання геаграфіі і гісторыі Расіі, пашырэння рас. перыядычных выданняў. Асабістымі якасцямі (слава- і ўладалюбства, воля, працавітасць, дыпламатычнасць) і здольнасцямі К. II значна вылучалася сярод інш. рас. манархаў. Займалася таксама літаратурнай творчасцю, публіцыстыкай.

*Літ.*: Архив Государственного Совета. Т. 1. СПб., 1869; Письма императрицы Екатерины II-й к Т.И.Тутолмину // Рус. архив. 1873. Кн. 2; Беседы императрицы Екатерины II с Далем: 1772—1777 // Рус. старина. 1876. № 9; Брикнер А.Г. История Екатерины Второй. Ч. 1—5. СПб., 1885; Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796). Вильна, 1903; Виноградов А.А. Значение царствования императрицы Екатерины II для Северо-Западного края. 2 изд. Вильна, 1904; Белецкий А.В. Заботы императрицы Екатерины II о распространении образования в Полоцкой и Могилевской губерниях. Вильна, 1905; Кудринский Ф.А. Императрица Екатерина II-я и разделы Польши. Вильна, 1905; Семевский В. Пожалования населенных имений в царствование Екатерины II-й. СПб., 1906; Ільяшэвіч М. Расейская палітыка на землях былага Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўлы I (1772—1801). Вільня, 1933; Тарле Е.В. Екатерина Вторая и ее дипломатия. Ч. 1—2. М., 1945; Соловьев С.М. История России с древнейших времен. Кн. 13—15. М., 1965—66; Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II (1772—1796 гг.). Мн., 1998; Стегний П.В. Разделы Польши и дипломатия Екатерины II. М., 2002.

***Уладзімір Сосна.***

**кацярынкі**, манахіні каталіцкага манаскага ордэна св. Кацярыны Александрыйскай (Кангрэгацыя сясцёр святой Дзевы і Мучаніцы Кацярыны, лац. Congregatio Sororum sanctae Catharinae Virginis et Martyris, CSC). Засн. ў 1571 у Браневе (Брунсбергу) Рэгінай Протман для догляду хворых, апекі над убогімі, выхавання дзяўчат. Зацверджана ў 1583 вармінскім біскупам М.*Кромерам*. У канцы 16 ст. ў Вармії з'явіліся некалькі суполак К., якія трымалі ўласныя навіцыяты, школы для дзяўчат, апекаваліся над хворымі і выраблялі мастацкія літургічныя рэчы. Па запрашэнні жамойцкага біскупа Е.Тышкевіча ў 1645 К. заснавалі кляштар у Крожах, які атрымаў фундушы ад самога біскупа, парафіяльных улад і караля Яна II Казіміра. Трымалі там школу для дзяўчат, ажыццяўлялі дабрачынную дзейнасць.

*Літ.*: Śliwińska B.G. Dzieje Zgromadzenia Sióstr Świętej Katarzyny Dziewicy i Męczennicy. T. 1. 1571—1772. 2 wyd. Olsztyn, 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**Качмарчык** (Kaczmarczyk) Здзіслаў (19.8.1911, г. Кракаў—9.8.1980), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1944), праф. (1946). Скончыў Пазнан-

скі ун-т, дзе потым працаваў. Адзін з арганізатараў Зах. ін-та Польскай АН. Вывучаў гісторыю Польшчы пры Казіміру III, нямецкую каланізацыю Польшчы ў сярэдневяковʼі, гісторыю заходнепольскіх і далмацінскіх гарадоў. Выдаў т. 10 *Валюміна легум* (1952), дзе сабраны канстытуцыі Гарадзенскага сойма 1793. Адзін з аўтараў абагульняльных прац па гісторыі дзяржавы і права Польшчы і ВКЛ, гісторыі дыпламатыі.

*Тв.*: Monarchia Kazimierza Wielkiego. T. 1—2. Poznań, 1939—46; Kolonizacja niemiecka na wschód od Odru. Poznań, 1945.

*Літ.*: Studia i materiały do dziejów Wielkopolski i Pomorza. T. 13, z 1. Warszawa; Poznań, 1979 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**кашталян** (ад лац. castellum замак), урад (пасада) у ВКЛ. Узнік у Польшчы ў 13 ст. Першапачаткова загадваў замкам і меў пэўныя судовыя функцыі, да пач. 14 ст. страціў практычную ўладу. У ВКЛ уведзены ў 1413 у Вільні і Троках, у 1506 — у іншых ваяводскіх гарадах. У Інфлянтах у 1598—1677 існавалі К. вендэнскі, дорпацкі і парнаўскі, у 1677 замест іх утворана пасада К. інфлянцкага. К. не меў акрэсленых функцый, у службовай іерархіі займаў месца пасля *ваяводы*. Увходзіў у Раду ВКЛ, з 1569 — у Сенат Рэчы Паспалітай. У час адсутнасці ваяводы склікаў соймік гал. павета ваяводства і старшынстваваў на ім. Пры скліканні паспалітага рушэння збіраў шляхту з гал. павета і перадаваў яе пад кіраўніцтва ваяводы.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Кашуцкі** (Koszutski) Станіслаў (?, Пыздраўскі пав., Вял. Польшча—4.4. 1559), паэт, перакладчык, бібліятэкар. Атрымаў дасканалую гуманістычную адукацыю. Вучыўся ў Познані, у 1544 — у Вітэнбергскім ун-це. Каля 1547 паступіў на службу да Радзівілаў. У 1548 у радзівілаўскіх Дубінках недалёка ад Вільні напісаў «Эпіталаму ў шлюб свяшчэнны і найсветлы яго каралеўскай вялікасці пана Жыгімонта Аўгуста» («Epithalamion in nuptiis Sacrae ac serenissimae Maiestatis Regiae Domini Sigismundi Augusti»), прызначаную для публічнага выканання з нагоды шлюбу Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл. Там жа ў 1548 напісаў «Эклогу да слаўнага пана Мікалая Радзівіла па мянушцы Марфей» («Ecloga ad Magnificum dominum Nicolaum Radzivilum scripta cujus nomen Morpheus»). Стаў сакратаром каралевы Барбары Радзівіл. Суправаджаў яе ў Кракаў у 1549. Пасля смерці Барбары (1551) застаўся пры каралеўскім двары ў Вільні як бібліятэкар, складаў каталог збораў Жыгімонта Аўгуста. Па прапанове князя С.Алелькавіча пераклаў на польскую мову твор Рэйнгарда Ларыхіуса «Кнігі пра выхаванне і пра навучанне любога начальніка» («Księgi o wychowaniu i o ćwiczeniu każdego przełożonego», Кракаў, 1558). Пераклаў з лацінскай мовы трактат Цыцэрона «Пра абавязкі людзей усіх станаў» («O powinnościach wszech stanów ludzi księgi troje», Лоск, 1575, перавыдавалася ў Вільні ў 1583, 1593, 1606, 1766), у якасці дадатку была змешчана падрабязная біяграфія Цыцэрона, магчыма, аўтарства К. Належаў да кола першых прыхільнікаў Рэфармацыі ў Польшчы і ВКЛ.

*Літ.*: Sajkowski A. Stanisław Koszutski sekretarz Barbary Radziwiłłówny // Sprawozdania Poznańskiego Towarzystwa Przyjaciol Nauk. 1966. Polrok 1; Подокшин С.А. Идеи материализма и диалектики в комментариях С.Кошутского // Идеи материализма и диалектики в Белоруссии. Мн.: 1980.

**Каяловіч** (Віюк-Каяловіч) Альберт (Войцех; 1609, Ковенскі пав.—6.10. 1677), гісторык, геральдык, рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай. Брат К.*Каяловіча*. У 1627 уступіў у ордэн езуітаў. У 1628—32 вучыўся ў Віленскім і Нясвіжскім калегіумах, у 1634—38 — у Віленскай акадэміі. Адзін з арганізатараў Ковенскага калегіума. У 1644—45 праф. палемічнай тэалогіі ў Браневе (Польшча). У 1645 атрымаў у Вільні ступень д-ра тэалогіі і да 1658 выкладаў у Віленскай акадэміі схаластычную тэалогію (з 1649 падканцлер акадэміі, у 1654—55 яе рэктар). З 1658 пры двары віленскага біскупа-суфрагана А.Сапегі, біскупа Я.Даўгялы, падарожнічаў па ВКЛ. У 1662—66 прэпазіт (настаяцель) дома манахаў у Вільні, намеснік правінцыяла ордэна езуітаў. З 1666 прэфект у Варшаўскім калегіуме. Аўтар 34 друкаваных прац (лічачы пераклады). Першыя публікацыі (1635) — палеміка з кальвіністамі. Гал. яго твор — «Гісторыя Літвы» на лацінскай мове («Historia Lituaniae», ч. 1—2, Гданьск, Антверпен, 1650—69). 1-я частка гэтага твора па сутнасці зʼяўляецца перакладам «Хронікі» М.*Стрыйкоўскага*. Аднак К. адкінуў шмат яго фантастычных звестак і больш сістэматычна разгледзеў дахрысціянскую гісторыю Літвы. Гэта праца пазнаёміла краіны Зах. Еўропы з гісторыяй ВКЛ. Ход ваенных дзеянняў супраць укр. казакоў у 1648—49 апісаў у кн. «Аб ваенных дзеяннях 1648 і 1649 г. супраць запарожскіх казакоў» («De rebus anno 1648 et 1649 contra zaporovios cosacos gestis», Вільня, 1651). Генеалогіі роду Радзівілаў прысвяціў «Летапіс Радзівілаў» («Fasti Radiviliani», Вільня, 1653), але з прычыны раскрыцця таямніц іх роду праследаваўся Радзівіламі. У рукапісах засталіся генеалагічныя творы пра Хадкевічаў і Сапегаў. Род Сапегаў выводзіў не ад Гедзіміна, а ад баярына Сунігайлы, чым настроіў іх супраць сябе. У 1648 пачаў працу над кнігай па гісторы шляхты ВКЛ. Яе друкаванне ў 1656 спынена па патрабаванні адной шляхецкай сямʼі, якая палічыла сябе абражанай. Гэты арыгінальны твор захаваўся ў 3 рэдакцыях: старэйшая на польскай мове, дзе роды размешчаны паводле старшынства і годнасці; «Кампендыум» («Compendium») на польскай мове, дзе матэрыял выкладзены паводле гербаў (надрукаваны ў 1897); «Наменклятар» («Nomenclator») на лацінскай мове, дзе матэрыял пададзены паводле прозвішчаў (надрукаваны часткова ў 1905). Іл. гл. ў т. 1, с. 156.

*Тв.*: Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego, tak zwany Compendium. Kraków, 1897; Herbarz szlachty Wielkiego Księstwa Litewskiego zwany Nomenclator. Kraków, 1905; Літ. пер. — Lietuvos istorija. Vilnius, 1988; Lietuvos istorijos į vairenybės. D. 1—2. Vilnius, 2003—04.

*Літ.*: Wiszniewski M. Historya literatury polskiej. T. 7—8. Kraków, 1845—51; Chodyncki I. Dykcjonarz uczonych Polaków... Lwów, 1933; Тиюнелите Я. Альберт Виюк Коялович — хронист XVII в. // Acta Baltico-Slavica. Warsawa. 1973. T. 8; Kiaupa Z. Apie Alberto Kojalavičiaus ir jo brolių kilmę // Litwa i jej sąsiedzi od XII do XX wieku. Poznań, 1994.

***Альбіна Семянчук.***

**Каяловіч** (Віюк-Каяловіч) Казімір (каля 1617, г. Коўна—2.11. 1674), дзеяч каталіцкай царквы, педагог. Брат А.*Каяловіча*. Д-р філасофіі і тэалогіі (1654). З 1634 езуіт. Вучыўся ў Вільні (1638—41, 1643—47) і Нясві-



жы (1636—37, 1647—48). Выкладаў рыторыку ў Крожах, Полацку (1641—43), Браневе (1648—49), філасофію ў Полацку (1649—52), тэалогію ў Вільні (1652—59). Рэктар Віленскай акадэміі (1659—61), яе падканцлер (1666—69), рэгенс Папскай семінарыі (1669—72), рэктар Полацкага калегіума (1672—74). Шмат зрабіў для аднаўлення акадэміі пасля вайны з Расіяй 1654—67. Напісаў шмат панегірыкаў і жыццяў езуітаў і іх апекуноў (В.Пратасевіча, К.Л.Сапегі, М.К.Паца, М.Лянчыцкага і інш.), якія сабраны ў зборніку «Panegirici heroum» (Вільня, 1668). Выдаў зборнікі прамоў і казанняў. Аўтар падручнікаў гамілетыкі «Modi LX sacrae orationis varie formandae» (Вільня, 1644) і рыторыкі «Institutionum rhetoricarum» (ч. 1—2, Вільня, 1654). Пасмяротна выдадзены яго пераклад «Аналаў» Тацыта (Варшава, 1803). Карыстаўся вядомасцю як цудоўны прамоўца.

**Каяловіч** Міхаіл Восіпавіч [20.9(2.10).1828, мяст. Кузніца Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляскае ваяв. Польшчы—23.8(4.9.).1891], расійскі гісторык, публіцыст і грамадскі дзеяч. Д-р багаслоўя (1873), праф. ардынарны (1873). Сын уніяцкага святара. Вучыўся ў Супрасльскім духоўным вучылішчы, Літоўскай духоўнай семінарыі ў Вільні, скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1855). Выкладаў у Рыжскай і Пецярбургскай семінарыях, з 1856 у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Асн. працы прысвечаны гісторыі Беларусі, Польшчы і Расіі. Аўтар гіст.-этнаграфічных даследаванняў «Пра рассяленне плямён Заходняга краю Расіі», «Пра этнаграфічны атлас заходніх губерняў» (абодва 1863), «Пра этнаграфічную мяжу паміж Заходняй Расіяй і Польшчай» (1864) і інш. Да зборніка «Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходнярускага краю і яго адносіны да Расіі і да Польшчы» (Пецярбург, 1865) дадаў этнаграфічную карту. Закранаў пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, рускіх, літоўцаў і інш. Бел. народнасць, на яго погляд, склалася ў 10—11 ст. з плямён крывічоў і дрыгавічоў і раднілася па веры, мове і этнаграфічных традыцыях з рускімі і ўкраінцамі. Адзначыў пэўную розніцу паміж усх. і зах. беларусамі, што тлумачыў вынікамі міжэтнічных кантактаў з літоўцамі і палякамі ў 14—18 ст., а таксама палітыкай акаталічвання і паланізацыі ў Рэчы Паспалітай. Далучэнне Беларусі і Украіны да Расіі ў канцы 18 ст., на думку К., адрадзіла старарускае адзінства. Выступаў супраць паўстання 1863—64. У 1885—87 апублікаваў нататкі пра падарожжа па Беларусі і Літве. Актыўна супрацоўнічаў са славянафільскай прэсай. Ажыццявіў выданне шматлікіх гіст. крыніц: «Дзённік апошняга паходу Стафана Баторыя на Расію...» (Пецярбург, 1867), «Дзённік Люблінскага сойма 1569 г.» (Пецярбург, 1869), дакументаў Смутнага часу ў Расіі («Русская историческая библиотека», т. 1, Петербург, 1872) і інш.

*Тв.*: Литовская церковная уния. Т. 1—2. СПб., 1859—61; Лекции по истории Западной России. М., 1864; История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; Историческая живучесть русского народа и его культурные особенности. СПб., 1883; История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. СПб., 1884 (4 изд. Мн., 1997).

*Літ.*: Пальмов И.С. Памяти М.И.Кояловича. СПб., 1891; Цьвікевіч А. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамад. мысьлі на Беларусі ў XIX і пач. XX ст. 2 выд. Мн., 1993. С. 142—184; Черепица В.Н. Михаил Осипович Коялович: История жизни и творчества. Гродно, 1998.

***Ігар Чаквін.***

**кварта** [ад лац. quarta (pars) чвэрць], адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасці ў сістэме мер ВКЛ. Раўнялася 0,70577 л. 4 К. складалі *гарнец*, 144 малыя, або шынковыя, гарцы складалі віленскую *бочку* — 406, 54 л. Адзінка, у 4 разы меншая за К., называлася кватэрка.

**кварта**, падатак у Рэчы Паспалітай на ўтрыманне войска. Збіралася з трымальнікаў дзярж. уладанняў (каралеўшчын, стараstваў, лясніцтваў, акрамя эканомій, прызначаных «на стол» караля) у памеры чвэрці іх даходаў. У Польшчы ўведзена ў 1562, пасля ў ВКЛ. Збіралася ў адпаведнасці з люстрацыямі дымоў у кожным павеце спец. камісіямі па выбары соймікаў. Апошняя люстрацыя для збору К. прызначана ў 1789 Чатырохгадовым соймам.

*Літ.*: Pawiński A. Skarbowość w Polsce i jej dzieje za Stefana Batorego. Warszawa, 1881; Drozdowski M. Podstawy finansowe działalności państwowej w Polsce, 1764—1793. Warszawa; Poznań, 1975.

***Яўген Анішчанка.***

**квіт**, квітанцыя, рэверс, рэверсал, у справаводстве ВКЛ у 16—18 ст. назва даўгавога абавязацельства; пазыковы запіс, распіска ў атрыманні грошай або рэчаў. Выдаць квіт, квітаваць — пісьмова пацвердзіць атрыманне грошай ці рэчаў, вызваліць ад даўгоў, абавязкаў.

**Кедайняй** (Kedainiai), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр раёна, гл. *Кейданы.*

**Кезгайлы**, Кежгайлы, магнацкі род герба «Задора». Паходзілі са стараж. літ. баярства, ахрышчанага ў каталіцтва пасля 1385, ад баярына Бушкі (каля 1320—пасля 1385) і яго сына Валімонта (каля 1350—пасля 1398), уладальнікаў Дзевялтова, Солаў і Свядасці ў Вількамірскім павеце. Прозвішча роду паходзіць ад імя 3-га з сыноў Валімонта — Кезгайлы (Міхаіла, каля 1380—1449), намесніка вількамірскага ў 1409—12, старасты жамойцкага ў 1412—32, 1440 і з 1445, кашталяна віленскага з 1445. Валодаў часткай Дзевялтова, Солаў і Свядасці, атрымаў ад вял. князя Вітаўта Крожы, Плоцеле і інш. маёнткі ў Жамойці. Найб. вядомыя:

Міхаіл (каля 1410—76), сын Кезгайлы. Яшчэ пры жыцці бацькі стаў канцлерам ВКЛ (1444), адначасова намеснік смаленскі ў 1450—58 і ваявода віленскі з 1459. Ад вял. князя Казіміра атрымаў у 1451 частку Лукомльскай вол. (пазнейшы маёнтак Халопенічы), Дварэц і Ельну ў Навагародскім пав., воласць Бакшты (пазнейшыя Дукора і Смілавічы) у Менскім пав., у 1465 — Любчу на Нёмане і Ракаў са складу Заслаўскага княства. Памёр без нашчадкаў.

Ян (каля 1415—85), сын Кезгайлы. Староста жамойцкі з 1449 і адначасова кашталян віленскі з 1478. Атрымаў у 1451 ад вял. князя Казіміра Мсцібогаў у Ваўкавыскім пав., у спадчыну пасля бацькі — частку Дзевялтова, Крожаў і інш. маёнткаў у Літве і Жамойці. Атрымаў спадчыну бяздзетных братоў, пасля чаго стаў адным з багацейшых магнатаў ВКЛ. Ад яго сыноў Станіслава і Міхаіла пайшлі 2 галіны роду.

Станіслаў (мянушка Рэкуць; каля 1450—1527), сын Яна. Староста жамойцкі пасля бацькі з 1486, адначасова кашталян троцкі ў 1499—1522, гетман найвышэйшы ў 1501—03, кашта-

лян віленскі з 1522. Пры падзеле бацькоўскіх маёнткаў атрымаў частку Дзевялтова, Крожаў і інш. у Літве, Мсцібогаў, Ракаў, частку Бакштаў, паводле завяшчання цёткі Мілохны — частку Налібак і Дзераўную ў Менскім пав. Ад вял. князя Аляксандра атрымаў Зэльву ў Ваўкавыскім пав., сёлы ў Любашанскім старастве, праз шлюб з Ядвігай, дачкой Алехны Судзімонтавіча — Палачаны, Лужаны і Занарач у Ашмянскім пав. Дачка Барбара выйшла за Яна Забярэзінскага. Трэці сын Станіслаў (каля 1500—32), староста жамойцкі з 1527, адначасова кашталян троцкі з 1528, ставіў у войска 371 конніка са сваіх маёткаў і 246 — з маёнткаў жонкі Ганны, удавы Яна Радзівіла.

М і к а л а й (1451?—1512), сын Яна. Маршалак земскі ВКЛ з 1509. Пры падзеле спадчыны бацькі атрымаў частку Крожаў, Дзевялтова, Дварэц, Ельну і інш., ад цёткі Мілохны — частку Налібак. Пакінуў сына Мікалая (каля 1495—1529), які ў 1528 ставіў у войска 151 конніка, дачок Барбару (жонку Андрэя Завішы) і Ганну (жонку Станіслава Шэмета). Яго ўнук Станіслаў Мікалаевіч (каля 1520—54) выхоўваўся пад апекай Юрыя Радзівіла, потым паступіў у світу вял. князя Жыгімонта Аўгуста. Кухмістр ВКЛ у 1545, стольнік ВКЛ у 1545—52, падчашы ВКЛ з 1551; староста тыкоцінскі і магілёўскі з 1551. Пакінуў двор пасля жаніцьбы караля ў 1548. У 1549 атрымаў тытул графа Свяшчэннай Рымскай імперыі, тытулаваўся графам «на Крожах». Перайшоў у пратэстанцтва. Пакінуў 7-гадовага сына Яна, які памёр праз паўгода пасля бацькі. На гэтым род К. згас, яго ўладанні падзялілі родзічы па жаночай лініі — Завішы і Шэметы.

*Літ.*: P i e t k i e w i c z K. Kieżgaiłowie i ich latyfundium do połowy XVI wieku. Poznań, 1982.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кейданская гімназія** (лац. «Lyceum Caiodunense», «Collegium Caiodunense»), кальвінісцкая сярэдняя навучальная ўстанова ў г. *Кейданы*. Віленскі правінцыяльны сінод 1625 пастанавіў адчыніць 2 новыя кальвінісцкія школы — у Слуцку і Кейданах. На Віленскім правінцыяльным сінодзе 1629 прыняты агульны школьны статут, а на Кейданскім сінодзе 1629 — праграма навучання К.г. Адчынена ў 1629. Спярша школа была пачатковая, у ёй выкладаў 1 катэхіст. Фактычна гімназія пачала працу з 1631, калі пратэктары школы К.*Радзівіл* і яго жонка Ганна Кішка выдалі фундуш, паводле якога К.г. атрымала мураваны дом і 2,5 тыс. злотых штогод. Першапачаткова была 4-класная. Вывучалі пісьмо, чытанне, арыфметыку, польскую, лац. і грэчаскую мовы, рыторыку, гісторыю, этыку, логіку, тэалогію. Пры гімназіі дзейнічаў алюмнат (інтэрнат). Віленскі правінцыяльны сінод 1647 выдаў для К.г. новую праграму, тут пачалі вывучаць рус. мову. У сярэдзіне 17 ст., пасля шведскага нападу і смерці пратэктара школы Ю.*Радзівіла*, К.г. заняпала, у канцы 1660-х г. адрадзілася. У 1670-х г. у гімназіі 5 класаў і 5 настаўнікаў, у канцы 1670-х г. — 3 класы. У 1685 зацверджана новая праграма, якая прадугледжвала вывучэнне музыкі, выкладанне грэч. мовы адменена. Школа была папулярная сярод літ. шляхты, тут вучыліся дзеці мясц. шкотаў (шатландцаў), немцы з Прусіі. Пры гімназіі прыкладна ў 1651—53 дзейнічала *Кейданская друкарня*. У 1684 гімназія згарэла разам з бібліятэкай, разбурана ў час Паўн. вайны 1700—21. Зачынена ў 1863.

*Літ.*: T w o r e k S. Programy nauczania i prawa gimnazjum kalwińskiego w Kiejdanach z lat 1629 i 1685 // Odrodzenie i reformacja w Polsce. Warszawa, 1970. T. 15.

***Валерый Пазднякоў.***

**Кейданская друкарня.** Дзейнічала прыкладна ў 1651—53 у г. *Кейданы* пры *Кейданскай гімназіі*. Узначальваць друкарню быў запрошаны ў 1651 Іахім Георгій Рэтэ, сын вядомага гданьскага друкара Г.Рэтэ. Адзіная дакладна вядомая кніга друкарні — канцыянал і малітоўнік на літ. мове «Кніга набажэнства хрысціянскага ў гонар адзінай Святой Тройцы» («Kniga Nobaznistes Krikscioniszkos Ant Garbos Diewny Traycey Szwentoy Wienatijam», 1653). Складаецца з некалькіх частак: песні і псалмы Я.Каханоўскага, перакладзеныя з польскай мовы кейданскім бурмістрам Стафанам Цялегаю; нядзельныя евангельскія чытанні з тлумачэннямі, якія ўзыходзяць да «Пасцілы» Грыгорыя з Жарноўца; «Гісторыя пра муку і смерць Пана Ісуса»; «Малітвы набожныя»; «Малы катэхізіс». Часткі кнігі мелі ўласныя тытульныя лісты і пагінацыю, распаўсюджваліся і самастойна. Выданне было прысвечана Янушу *Радзівілу* і мела прадмову на польскай мове. Кнігу склалі вядомыя дзеячы кальвінісцкай царквы суперінтэндант Самуэль Мінвід і кансеньёр Ян Бажымоўскі. Відаць, К.д. друкавала падручнікі для Кейданскай гімназіі і дакументы радзівілаўскай адміністрацыі, так, упамінаецца кніга «Пункты гораду Кейданскаму...» («Punkta Miastu Kiejdańskiemu od Wojewody Wileńskiego Het. Pol. W.X.Lit. postanowione i podane», 1653). Прыкладна ў гэты час выйшла кніга пастара Яна Дамініка «Дыспут па этыцы». Відаць, друкарня заняпала пасля смерці Радзівіла (1655). Гісторык Ю.Лукашэвіч меркаваў, што К.д. друкавала кнігі і па заказу Л.К.*Радзівіл*, але яны не вядомы. Пазней друкарскае абсталяванне перавезена ў Мітаву, адтуль у 1672 — у Слуцк.


KNIGA
Nobaznistes
Krikscioniszkos/
Ant garbos
Diewuy TRAYCEY Szwentoy
Wienatijam:
Ant warżoimá
Báżnicioms dides Kunigistes
Lietuwos iśduotá.
O dabar antra karta perdrukawota/
KIEDAYNISE
DRUKAWOIA, JOACHIMAS JURGIS
RHETAS, Metu Pona, 1653.

Да арт. **Кейданская друкарня**. «Кніга набажэнства хрысціянскага ў гонар адзінай Святой Тройцы». Кейданы. 1653. Тытульны ліст.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959.

**Кейданская дэкларацыя 1655**, дакумент, у якім саслоўі ВКЛ пагадзіліся заключыць ваенную канвенцыю і дзяржаўную унію са Швецыяй на ўласных умовах. Падпісана 17 жн. ў Кейданах у ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайны 1655—*

**Кейданская дэкларацыя 1655**. Арыгінал, с. 1, 2, 7, 8. Дзяржаўны архіў Швецыі.

*60* як адказ на шведскія прапановы ад 10.8.1655. Швецыя была зацікаўлена ў пераходзе незанятай рас. і ўкр. войскамі часткі ВКЛ пад сваю пратэкцыю. 23.7.1655 губернатар правінцыі Ліволнія М.Г.*Дэлягардзі* прыбыў у Рыгу і адразу паслаў правасл. віленскіх купцоў, што гандлявалі ў Рызе, да Я.*Радзівіла* з прапановай перагавораў. 1.8.1655 Дэлагардзі адправіў каралю *Карлу X* ліст, у якім паведаміў пра жаданне Радзівілаў і Сапегаў перайсці пад шведскую пратэкцыю. Адначасова Дэлягардзі пачаў агітацыю сярод шляхты ВКЛ. 28.7.1655 бел. купцы даставілі ў Вільню прапановы Швецыі, а Я.Радзівіл, Б.Радзівіл і віленскі біскуп Е.Тышкевіч накіравалі Дэлягардзі ліст з просьбай аб шведскай дапамозе ў абароне Вільні ад рас. войск. У той жа дзень Я. і Б. Радзівілы напісалі Дэлягардзі асобны ліст, дзе паведамлялі, што для перагавораў яны пасылаюць Габрыеля Любянецкага. 5.8.1655 ён прывёз у Рыгу мемарыял Радзівілаў, дзе тыя пагаджаліся з прапановай Карла X разарваць унію з Польшчай і перадаць ВКЛ пад уладу караля Швецыі, якога яны прызнавалі вял. князем літоўскім. 10.8.1655 Дэлягардзі падпісаў 2 акты, дзе публічна абвяшчалася пра падрыхтоўку саюза Швецыі і ВКЛ і выкладаліся кандыцыі прыняцця ВКЛ пад уладу Швецыі, распрацаваныя на аснове падпісаных Любянецкім умоў пераходу Радзівілаў пад пратэкцыю шведскага караля. 14.8.1655 Любянецкі прывёз шведскія ўмовы ў лагер войска ВКЛ у Кейданах. У час рыжскіх перагавораў 8.8.1655 рас. і ўкр. войскі захапілі Вільню. Але шляхта ВКЛ не прыняла без ваганняў прапановы Швецыі. 17.8.1655 прадстаўнікі ВКЛ падпісалі К.д., накіраваную ўраду Швецыі. У 12 артыкулах дэкларацыі шведскія ўмовы былі значна перапрацаваны і дапоўнены. Паводле К.д. шляхта ВКЛ абяцала заставацца ў непарушнай вернасці і падпарадкаванні шведскага караля як вял. князя літоўскага. ВКЛ не павінна быць інкарпаравана ў Шведскае каралеўства, а злучана з ім на роўных умовах, як раней з Польскім каралеўствам; у ВКЛ павінны былі заставацца свае органы ўлады, законы і суды. Войска ВКЛ аддавалася пад камандаванне шведскага караля, але не павінна было накіроўвацца супраць польскіх войск. Шведскаму каралю перадаваліся ўсе дзярж. маёнткі ВКЛ і права патранату над царк. маёнткамі, каталіцкія біскупы захоўвалі сенатарскую годнасць. Пасля вызвалення тэр. ВКЛ усе маёнткі павінны быць вернуты былым уладарам, у т.л. ў Лівоніі. Становішча канфесій павінны было застацца без змен. К.д. падпісана ў асн. прадстаўнікамі ад войска ВКЛ, Вількамірскага, Упіцкага паветаў і Жамойці (аднак падпісвалася ад імя ўсяго ВКЛ). Пад ёй паставілі подпісы каля 550 шляхціцаў і святароў ВКЛ. Першымі дакумент падпісалі вял. гетман Я.Радзівіл, польны гетман В.Гасеўскі, кашталян жамойцкі А.Кірдзей, адміністратар Віленскага біскупства Е.Белазор. Большасць уплывовых ураднікаў, што падпісалі К.д., складалі пратэстанты. Біскупы віленскі Тышкевіч (напярэдадні падпісання з'ехаў у Прусію) і жамойцкі П.Парчэўскі адмовіліся падпісаць К.д. Дэкларацыя была спробай кампрамісу паміж апазіцыяй на чале з Радзівіламі і партыяй раялістаў на чале з Гасеўскім. Пераход паўн. часткі ВКЛ пад кантроль Швецыі азначаў рэзкае ўзмацненне пазіцый

Швецыі ва Усх. Прусіі і Курляндыі. Аслабляўся ўплыў Расіі на Прусію і Курляндыю, бо Масква траціла агульную мяжу з гэтымі краінамі, што не дазваляла Расіі выйсці на берагі Балтыкі. Саюз са Швецыяй дазволіў ВКЛ выратаваць ад захопу рас. войскамі і ўкр. казакамі рэшту дзяржавы. К.д. была кампрамісам паміж Я.Радзівілам і Гасеўскім, пратэстантамі і католікамі, шляхтай Жамойці і цэнтр. уладай ВКЛ, зрэшты, Літвой і Швецыяй. Кожны з бакоў укладаў розны змест у дэкларацыю і па-рознаму бачыў будучыню саюза. З польскага пункту гледжання К.д. была відавочнай дзярж. здрадай, бо парушала акт Люблінскай уніі 1569, паводле якога ВКЛ не магла падтрымліваць сепаратныя дыпламатычныя адносіны і заключаць міжнар. пагадненні. Але ў Статуце 1588 ВКЛ трактавалася як незалежная краіна і мела правы на ўласную знешнюю палітыку. Гал. ролю ў падрыхтоўцы К.д. адыграла палітычная апазіцыя на чале з Я. і Б. Радзівіламі. К.д. не была ратыфікавана Швецыяй па прычыне адмовы войска ВКЛ ваяваць супраць Польшчы і з-за шэрагу ўмоў (патрабаванне абвясціць ультыматум Расіі, пачаць вайну супраць яе, абвяшчэнне роўнасці ВКЛ і Шведскага каралеўства і інш.). Новыя перагаворы Швецыі з ВКЛ скончыліся падпісаннем *Кейданскай уніі 1655*.

*Літ.*: Gronski P. Le traité Lituano-Suédois de Keidany (18 aout 1655) // Revue historique. 1928. Vol. 159; Konopczyński W., Lepszy K. Akta ugody kiejdańskiej 1655 roku // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Sandberg P. Fördraget i Kedainiai mellan Sverige och Litauen // Baltisk revy: enårsbok. Lund, 1938; Тила А.А. Кейданская уния 1655 г. между Великим княжеством Литовским и Швецией // Скандинавский сборник. Таллин, 1978. Вып. 23; Fagerlund R. Kriget i Östersjöprovinserna 1655—1660: Operationer och krigsansträngningar på en bikrigsskådeplats under Carl X Gustafs krig. Åbo, 1979; Wisner H. Rok 1655 w Litwie: petraktacje ze Szwecją i kwestia wyznaniowa // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Wrocław etc., 1981. T. 26; Šapoka A. 1655 metu Kėdainių sutartis, arba Švedai Lietuvoje 1655—1656 metais. 2 leid. Vilnius, 1990; Fagerlund R. Kriget i Östersjöprovinserna 1655—1660: Operationer och krigsansträngningar på en bikrigsskådeplats under Carl X Gustafs krig. Åbo, 1979.

***Андрэй Катлярчук.***

**Кейданская унія 1655**, дзяржаўная унія паміж ВКЛ і Шведскім каралеўствам, заключаная ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайны 1655—60*. Афармлена 20—23 кастр. ў Кейданах 3 актамі: дэкларацыяй ВКЛ да міжнароднай супольнасьці з тлумачэннем прычын разрыву уніі з Польшчай (20.10.1655); уласна артыкуламі уніі (20.10.1655); актам пра стварэнне з дэпутатаў шляхты *Рады Шведскай Літвы* (23.10.1655). За час, які прайшоў ад прыняцця *Кейданскай дэкларацыі 1655*, палітычнае становішча ВКЛ і Польшчы рэзка змянілася. Ад Я.*Радзівіла* адышла частка войска і стварыла канфедэрацыю ў Вярбілаве. Расія і Украіна кантралявалі большую частку ВКЛ са сталіцай Вільняй. 8.9.1655 перад шведскім войскам капітулявала Варшава, 25 вер. — Кракаў. На пачатак кастр. 1655 значная частка Польшчы і Пн ВКЛ былі пад кантролем Швецыі. Усх. Прусія і Курлян-

1

2

3

4

**Кейданская унія 1655**: 1 — пераклад дэкаларацыі пра унію на галандскую мову. Амстэрдам, 1655; 2 — дэкларацыя пра унію на лацінскай і нямецкай мовах; 3, 4 — акт 20.10.1655. Арыгінал, с. 1, 6.



дыя апынуліся ўнутры шведскай тэрыторыі. У гэтых умовах шведскія палітыкі атрымалі магчымасць дыктаваць свае ўмовы. З другога боку, Расія зразумела, што адмова ад палітычнага дыялога і стаўка толькі на сілу была памылковай. 24.8.1655 у лагер войска ВКЛ каля Кейданаў пасланы В.Ліхараў з граматай цара, у якой Радзівілу і В.Гасеўскаму прапанавалася прыняць пратэкцыю Масквы ў абмен на захаванне пасад, уладанняў і свабоду веравызнання. 3.9.1655 цар прыняў тытул вял. князя літоўскага. У пачатку кастр. 1655 палітычную кансультацыю з прадстаўнікамі Расіі па загадзе Радзівіла пачаў стараста ашмянскі А.Саковіч. Шведскія палітыкі былі ўстрывожаны тым, што войска і рэшта ВКЛ могуць перайсці пад рас. кантроль. Гэта трывога дала Радзівілу магчымасць ціснуць на шведаў пры абмеркаванні умоў уніі. 17.9.1655 у Посваль разам з 2-тысячным войскам прыбылі дамаўляцца пра унію «пасол караля Швецыі ў Літве» Бенгт Шутэ і маршал Густаў Левенгаўпт. Ужо 18 вер. Шутэ пісаў М.Г.*Дэлягардзі*, што станы ВКЛ хочуць прынесці прысягу. Але перагаворы зацягнуліся. Не звязаная кліенцкімі адносінамі з слуцка-біржанскімі Радзівіламі шляхта баялася дамінавання гэтага роду ў дзяржаве. Шмат шляхты было за пратэкцыю на шведскіх умовах і выступала супраць умацавання Радзівілаў. Радзівіл быў супраць ідэі пратэкцыі і змагаўся за раўнапраўную унію паміж ВКЛ і Швецыяй. Шутэ распрацаваў план адхілення Радзівіла ад перагавораў: трэба было пазбавіць Радзівіла пасады вял. гетмана і зрабіць яго ганаровым кіраўніком ВКЛ. Але Дэлягардзі адхіліў гэты план. 2 тыс. шведскіх жаўнераў на чале з ім дэманстратыўна рушылі на Кейданы. Тут пад націскам Дэлягардзі быў падпісаны 1-ы акт К.у. «Публічная дэкларацыя ВКЛ да міжнароднай супольнасьці» (падпісалі каля 1060 шляхціцаў) і артыкулы «вечнай уніі Літвы са Швецыяй». Шведскі бок прадстаўлялі Дэлягардзі і Шутэ. Магнаты, шляхта і клір ВКЛ выступалі ад імя ўсёй дзяржавы. Яны адзначалі, што пасля прыняцця ў жн. 1655 першапачатковага акта цяпер складзены канчатковы дакумент, у якім абвяшчалася «вечная» унія са Швецыяй, шведскі кароль *Карл X* прызнаваўся вял. князем літоўскім, усе папярэднія уніі з Польшчай скасоўваліся.

Будучыя каралі Швецыі аўтаматычна станавіліся вял. князямі літоўскімі. ВКЛ і Жамойці (яна згадвалася асобна) захоўвалі аўтаномію, любыя змены законаў з боку караля Швецыі павінны былі вырашацца на вальным сойме. У ВКЛ захоўвалася свабода веравызнання і ўсе правы рымска-каталіцкай, уніяцкай і правасл. цэркваў. Гарантавалася сенатарская годнасць рымска-каталіцкіх біскупаў. Кароль Швецыі абвяшчаўся вярхоўным патронам усіх царк. маёнткаў. Войска ВКЛ падпарадкоўвалася каралю Швецыі. Ён меў прэрагатывы заключаць мір і аб'яўляць вайну. Непасрэднае кіраўніцтва ВКЛ пераходзіла да прызначанага каралём намесніка. ВКЛ пагаджалася ваяваць супраць Польшчы. У параўнанні з Кейданскай дэкларацыяй 1655 з актаў К.у. былі выключаны ўсе палажэнні, што не адпавядалі шведскім інтарэсам. Літвіны больш не прэтэндавалі на унію на роўных умовах. Рэакцыя большасці шляхты ВКЛ на скасаванне права элекцыі караля і прымусу ваяваць супраць Польшчы была адмоўнай.

Умовы К.у. падпісалі 1172 прадстаўнікі ВКЛ. Першымі свае подпісы паставілі вял. гетман Радзівіл, біскуп жамойцкі П.Парчэўскі, адміністратар Віленскага біскупства Е.Белазор, кашталян жамойцкі А.Кірдзей, ваявода вендэнскі М.Корф і кашталян дорпацкі В.Гольцшугер. Польны гетман В.Гасеўскі і генерал артылерыі М.Юдыцкі адмовіліся падпісаць унію і апынуліся пад хатнім арыштам. Радзівіл не здолеў перацягнуць на свой бок значную колькасць сенатараў. Змяніўся ў параўнанні з Кейданскай дэкларацыяй 1655 спісураднікаў і вайскоўцаў, якія падпісалі дагавор. Няма подпісаў вышэйшых афіцэраў, якія перайшлі на бок Рэчы Паспалітай ці цара (К.Паклонскі, М.Гасеўскі, У.Халецкі, М.Агінскі, Я.Быхавец, Г.Крышпін-Кіршэнштэйн, П.Ляцкі і інш.). Але Радзівіл здолеў пашырыць прадстаўніцтва ураднікаў (з 45 да 75) і афіцэраў. К.у. падпісала таксама вял. група лютэранскіх баронаў з Інфлянтаў, што належалі Рэчы Паспалітай. Урачыстае падпісанне адбылося сімвалічна ў будынку лютэранскага збору. Дэлягардзі і Шутэ былі задаволены К.у., хоць пад рэальны кантроль шведскага караля перайшла толькі частка ВКЛ: Жамойць, Вількамірскі, Упіцкі, Браслаўскі паветы і паўн. частка Ковенскага павета. Адм. цэнтрам шведскай зоны ВКЛ была Рыга. К.у. не была ратыфікаваная каралём і соймам Швецыі, але мела рэальную вагу на Пн ВКЛ і стала адной з прычын разрыву Расіяй міру са Швецыяй і яе агрэсіі супраць шведскіх правінцый Лівонія, Інгрыя, Эстонія і Карэлія (ліп. 1656).

*Літ.*: Гл. пры арт. *Кейданская дэкларацыя 1655.*

***Андрэй Катлярчук.***

**Кейданскі Георгіеўскі касцёл.** На аснове фармальна-стылістычнага аналізу можна меркаваць, што касцёл св. Георгія ў г. *Кейданы* пабудаваны ў апошняй чвэрці 15—пач. 16 ст. Упершыню ўпамінаецца ў 1523. У 1560 прыстасаваны пад кальвінскі збор, да гал. фасада прыбудавана вежа-званіца з рэнесансавымі ордэрнымі элементамі. У 1627 вернуты католікам (у 1662 паўторна асвячоны). У час рамонту 1758 перароблены вокны бакавых фасадаў. У 1839—40 аднаўлены фасады, дах накрыты дахоўкай. У 1918 на бакавых фасадах замест пілястраў прыбудаваны новыя контрфорсы, якія паўтараюць форму прэсбітэрыяльных. У 1928 дахоўку замянілі на бляшаны дах. Касцёл пабудаваны з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Першапачатковая форма франтонаў не ўстаноўлена. Цяпер кожны неф мае самастойнае крыццё даху. Спачатку помнік, відаць, быў накрыты стромкім гатычным 2-схільным дахам. Па тэктанічнай схеме гэта блізкая да квадрата ў плане пабудова, падзеленая ў інтэр'еры 4 апорнымі слупамі на 3 нефы. Гал. неф вышэйшы за бакавыя. Па памерах яму адпавядае прэсбітэрый, які яго прасторава прадаўжае. Алтарная частка заканчваецца поліганальнай апсідай. З паўн. боку да вімы прымыкае 2-павярховая сакрыстыя. Вокны бакавых фасадаў і прэсбітэрыя завяршаюцца паўцыркульнай перамычкай. Аўтэнтычная сакрыстыя была, напэўна, меншых памераў. Яе ўсх. частка прыбудавана пазней. Цяпер па сваёй архітэктоніцы храм уяўляе сабой псеўдабазіліку, хаця першапачаткова планаваўся і быў пабудаваны як зальная пабудова. Інтэр'еры перакрыты плоскай драўлянай столлю на бэльках. Спачатку контрфорсы падзялялі на асобныя праслы не

толькі бакавыя фасады, але і галоўны. Фасады былі прарэзаны вокнамі спічастай формы. Адметнасць трактоўцы гал. фасада надае дэкор контрфорсаў у выглядзе складаных ромбападобных кампазіцый.

*Літ.*: Jankevičienė A. Lietuvos periferijos gotikinių bažnyčių architektūros bruožai // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002; Kviklys B. Lietuvos bažnyčios. Chicago, 1983. T. 3.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Кейданскі кальвінскі збор.** Заснаваны ў г. *Кейданы* ў 1629 К.*Радзівілам*, будаўніцтва завяршыў у 1652 яго сын Я.*Радзівіл*. Збор мае прамавугольны ў плане аб'ём без алтарных апсід, накрыты 2-схільным дахам. Усх. фасад фланкіраваны вежамі цыліндрычнай формы аднолькавага сячэння і вышыні, яшчэ 2 вежы ўкампанаваны ў вуглавыя часткі зах. палавіны храма. Фасады расчлянёны пілястрамі, а ўсх. падзелены контрфорсамі на асобныя праслы, якія злучаны лучковымі перамычкамі і ўтвараюць на фасадах рытмічную рэнесансавую аркаду. У прасценках паміж пілястрамі на бакавых фасадах былі вокны. На тарцовых фасадах акрамя вокнаў маюцца нішы паўцыркульнай формы. Пластычнае вырашэнне фасадаў узбагачаюць сандрыкі, зробленыя над вокнамі і нішамі. Гал. і ўсх. фасады завершаны трохвугольнымі франтонамі, у цэнтры іх для асвятлення паддашка зроблена акно круглай формы. У храм вядуць 3 дзвярныя праёмы на гал. фасадзе, яшчэ адзін уваход быў на ўсх. фасадзе (цяпер замураваны). У зборы над уваходам зроблены хоры, якія абапіраюцца на 2 слупы крыжападобнай у плане формы. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. У нартэксе ўжыты крыжовыя скляпенні. Апорныя слупы прыстаўлены да бакавых сцен і злучаны ў завяршэнні аркамі паўцыркульнай формы, аздоблены капітэлямі, упрыгожанымі раслінным арнаментам. Злева ва ўсх. частцы знаходзіцца амвон рэнесансавай формы, упрыгожаны раслінным арнаментам. Насупраць гал. ўвахода каля тарцовай сцяны размешчаны невял. алтар. Помнік уяўляе сабой сінтэз рэнесансавай і барочнай архітэктуры.


**Кейданскі кальвінскі збор.** Саркафаг 17 ст.


**Кейданскі кальвінскі збор.** Малюнак Н.Орды.

*Літ.*: Šlubunas P. Kedainių miestų istorija. Kedainiai, 1928; Lietuvos architektūros istorija. T. 1. Vilnius, 1987. P. 266—267.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Кейданы** (літ. Кедайняй, Kedainiai, цяпер горад, цэнтр Кедайняйскага р-на, Літоўская Рэспубліка), горад у Жамойці, часткова ў Ковенскім і Упіцкім пав., на р. Нявежыс. Упершыню ўпамінаецца пад 1372 у хроніцы Германа з Вартберга. Паміж 1440 і 1447 вял. князь літоўскі Казімір падараваў К. Радзівілу Осцікавічу. У 1482 упершыню названы горадам. Знаходзіліся ва ўладанні ганязска-райгарадоцкай лініі Радзівілаў да сярэдзіны 16 ст., калі ў выніку шлюбных адносін перайшлі ў род Кішкаў; з пач. 17 ст. (канчаткова з 1615) зноў ва ўладанні Радзівілаў (біржанска-дубінкаўскай, пратэстанцкай лініі). У канцы 15—пач. 16 ст. пабудаваны *Кейданскі Георгіеўскі касцёл*. У 1517 упамінаецца царква св. Юрыя (магчыма, гэта быў касцёл). У 1520 у К. 145 дамоў, каля 870 жыхароў, у 1526 — 174 дамы, каля 1050 жыхароў. У 1588 атрымалі прывілей на гандаль, 15.4.1590 — магдэбургскае права і герб (падкова з 3 крыжыкамі на ёй, унутры — 2 ласосі). У 1604 у горадзе 6 вуліц, 2 рыначныя плошчы, 348 дамоў, каля 2090 жыхароў. Пры князях К.*Радзівіле* і яго сы-


**Кейданы.** Гравюра. 19 ст.



**Кейданы**.
Лютэранскі збор.

не Я.*Радзівіле* К. знаходзіліся ў росквіце. Горад стаў важным цэнтрам рамяства, гандлю і культуры. Тут дзейнічалі 10 рамесных цэхаў, якія аб'ядноўвалі каля 300 рамеснікаў. У горадзе асела шмат выхадцаў з Германіі, Галандыі, Шатландыі (*шкотаў*). У 1-й пал. 17 ст. ўзнік раён (пасля асобны горад) Янушаў, які часам называўся Новыя К. ў супрацьпастаўленні Старым К. У 1627 К. атрымалі новы герб: чорнае крыло арла ў залатым полі, з якога выходзіць лапа, што трымае падковы з 3 маленькімі крыжыкамі на ёй у блакітным полі. У 1624 — 401 дом. У 1623—71 працавала паперня. У 1629 заснаваны *Кейданскі кальвінскі збор* і адчынена *Кейданская гімназія*. Пры ёй прыкладна ў 1651—53 дзейнічала *Кейданская друкарня*. У 1652 пабудавана драўляная правасл. Праабражэнская царква, у 1654 — мураваная ратуша. У 1655 у горадзе 6 рынычных плошчаў, каля 500 дамоў, больш за 4 тыс. жыхароў, дзейнічалі 2 кальвінскія зборы (у адным служба вялася на літ. мове, у другім — па-польску і па-шатландску), лютэранскі збор, царква, касцёл, сінагога. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* тут прынята *Кейданская дэкларацыя 1655*, заключана *Кейданская унія 1655*. У 1655 горад разбураны шведамі і ў былым значэнні не адрадзіўся. У 1684 згарэла 100 дамоў, гімназія з бібліятэкай. На мяжы 17—18 ст. у К. адбываліся сіноды кальвіністаў, у 1778 і 1781 — аб'яднаныя сіноды кальвіністаў і лютэран. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1701 і 1704 К. разбураны шведамі. Каля 1704 у горадзе заснаваны кляштар кармелітаў абутых з драўляным касцёлам св. Юзафа, каля 1725 — місія езуітаў. З 1731 горад належаў Радзівілам нясвіжскай, каталіцкай лініі. У 1765 у К. каля 300 дамоў, больш за 1800 жыхароў, дзейнічалі 16 рамесных цэхаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 7, 8. Вильна, 1870; Пташкин И. Местечко Кейданы: (Опыт историко-экономического описания). Ковно, 1899; Šlubunas P. Kedainių miest istorija. Kedainiai, 1928; Trečiakauskas K. Kedainiai. Vilnius, 1974; Miškinis A., Grinevičius H. Kėdainių urbanistinė raida // Architekūros paminklai. Vilnius, 1975. T. 3; Malczewska M. Latyfundium Radziwiłłów w XV do połowy XVI wieku. Warszawa; Poznań, 1985. S. 103—105; Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai. T. 3. Kėdainiai / Sudarė A.Tyla. Vilnius, 2002; Žirgulis R. Three hundred years of multiculturalismin Kėdainai: A case study // The peoples of the Grand Duchy of Lithuania. Vilnius, 2002; Juknevičius A. The Sources of Kėdainiai Town // Archaeologia baltica. Vilnius, 2002. Vol. 5.

***Валерый Пазднякоў.***

**Кейстут** (1297—15.8.1382), вялікі князь літоўскі [1381—82]. Сын вял. князя *Гедзіміна* ад першага шлюбу. У 1330-х г., у час панавання бацькі, быў князем у Троках. У склад яго княства ўваходзілі Гародня, Падляшша і частка Жамойці, якую яшчэ не захапілі крыжакі. Вёў паспяховую барацьбу з рыцарамі Тэўтонскага ордэна, абараняючы ад іх літ. і бел. землі. У 1341 Гедзімін перад смерцю падзяліў дзяржаву на ўдзелы паміж сынамі, пакінуўшы велікакняжацкі пасад малодшаму сыну *Яўнуту*. К. вёў самастойную палітыку, зблізіўся з братам *Альгердам*, князем віцебскім і крэўскім. У пач. 1345 яны арганізавалі змову супраць Яўнута і кожны са сваім войскам рушылі да Вільні. Аднак Альгерд не паспеў да сталіцы ў вызначаны дзень, і К. са сваім войскам заняў Вільню. К. абвясціў старэйшага брата Альгерда вял. князем літоўскім і рускім. Атрымаўшы велікакняжацкі пасад, Альгерд фактычна падзяліў дзяржаву, аддаўшы К. яе зах. частку, якой К. самастойна кіраваў і вёў барацьбу супраць Тэўтонскага ордэна. Удзел К. складаўся з невял. часткі літ. зямель (Трокі і Коўна), часткі Жамойці, а таксама з бел. зямель, якія складалі больш за палову княства К. (Падляшша, Гародня, Слонім, Ваўкавыск, Камянец, Берасцейская зямля, Кобрын, Пінск, Тураў, «троцкая палавіна» Бабруйскай, Любашанскай і Свіслацкай валасцей, Горваль, Грэск). У бел.-літ. летапісах К. называлі вял. князем, а ў нямецкіх хроніках — каралём. Гэта сведчыць пра яго палітычную ролю ў дзяржаве. Валодаючы землямі ў Літве і Жамойці, прадстаўляў іх інтарэсы ў палітыцы ВКЛ. К. і Альгерд разам разграмілі войска крыжакоў у *Рудаўскай бітве 1370*. Са свайго боку К. удзельнічаў у паходах Альгерда на Маскву, падтрымліваў брата ў яго знешняй і ўнутранай палітыцы.

Пасля смерці Альгерда ў 1377 К. прызнаў вял. князем свайго пляменніка *Ягайлу*, якога спачатку падтрымліваў і разам ваяваў супраць крыжакоў. Аднак у 1380 адносіны паміж імі пагоршыліся. К. быў супраць шлюбу сястры Ягайлы Марыі з Вайдылам, баярынам нязнатнага роду. У 1381 К. даведаўся аб патаемнай дамове Ягайлы з крыжакамі Тэўтонскага ордэна і, адчуваючы вял. пагрозу для сябе, раптоўна выступіў супраць Ягайлы. У ліст. 1381 К. знянацку захапіў Вільню і абвясціў сябе вял. князем літоўскім і рускім. Ягайла быў пераведзены ў вызначаны яму ўдзел — Крэва і Віцебск. К. працягваў барацьбу з крыжакамі ў 1382. У час яго адсутнасці Ягайла ў ліп. 1382 захапіў Вільню і аднавіў сваё панаванне ў дзяржаве. К. пачаў вайну супраць Ягайлы, але поспеху не меў. У пачатку жн. 1382 К. сабраў 5-тысячнае войска — гарадзенскія і падляшскія палкі, жамойцкія і валынскія атрады — і пайшоў да Трокаў, непадалёк ад якіх сустрэўся з войскам Ягайлы, якое было значна большым. Атрымаўшы запрашэнне Ягайлы на перагаворы, К. пры-

ехаў да Ягайлы, быў затрыманы і зняволены ў Крэўскім замку. Паводле загаду Ягайлы там быў задушаны. Іл. гл. ў т. 1, с. 10.

*Літ.*: Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. 2, вып. 1. М., 1939; Полное собрание русских летописей. Т. 32, 35. М., 1975, 1980; Соловьев С.М. Сочинения. Кн. 2. М., 1988; Kučinskas A. Kęstutis. 2 leid. Vilnius, 1989; Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 76—81; Грыцкевіч А. Кейстут // Скрыжалі «Спадчыны». Мн., 1996. Вып. 2.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Кейстутавічы**, княжацкі род у ВКЛ у 14—15 ст., адгалінаванне *Гедзімінавічаў*. Паходзілі ад вял. князя *Кейстута* (?—1382), які меў 6 сыноў. З іх *Вітаўт* і *Жыгімонт Кейстутавіч* былі вял. князямі, *Войдат* — князем навагародскім. Інш. сыны Кейстута:

Пацірг (1325?—65?) разам з бацькам удзельнічаў у бітвах супраць крыжакоў, у 1365 абараняў ад іх Гародню, дзе быў намеснікам. У хуткім часе пераведзены ў адзін з унутраных удзелаў і ў крыніцах больш не згадваецца. Магчыма, быў замешаны ў змове брата Бутаўта.

Бутаўт (Бутаў, у каталіцтве Генрых; 1330?—пасля 1381) у 1365 арганізаваў змову супраць бацькі. Пасля яе раскрыцця ўцёк да крыжакоў і прыняў хрышчэнне. Жыў у Германіі.

Таўцівіл (у каталіцтве Конрад; 1355?—90) быў актыўным паплечнікам Вітаўта ў яго барацьбе з Ягайлам за велікакняжацкую ўладу. Загінуў у гэтай барацьбе ў час аблогі Вільні сумесным войскам Вітаўта і крыжакоў.

Гісторыкі выказвалі меркаванне, што сынам Кейстута быў Войшвіл, які аднойчы згадваецца ў крыжацкай хроніцы, але ён мог быць і баярынам Кейстута.

У наступным пакаленні да сталага ўзросту дажыў адзіны прадстаўнік К. — *Міхаіл Жыгімонтавіч* (1385—1452), які не пакінуў нашчадкаў. З яго смерцю род К. па мужчынскай лініі згас.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кельмаўскі кальвінскі збор**. Пабудаваны каля 1660—70 на паўн. ускраіне мяст. Кельмы (літ. Кельме, Kelmė) у Жамойці. Аднанефавы са шматʼяруснай чацверыковай вежай па восі гал. фасада храм, прэсбітэрый якога заканчваецца трохграннай апсідай. Над уваходам у храм зроблены хоры, на якія вядуць вінтавыя ўсходы вежы. Неф абʼёму складаецца з 2 травей, перакрытых крыжовымі скляпеннямі. Аздоблены стукавай лепкай, якая імітуе зорчаты малюнак гатычных нервюр. Падобныя скляпенні мае роўнавысокі прэсбітэрый. Нервюры скляпенняў абапіраюцца на ордэрныя пілястры. Сцены прарэзаны вокнамі спічастай формы. Асноўны абʼём і прэсбітэрый накрыты дахам з агульным вільчыкам. Вежа мае шатровы дах. Помнік уяўляе сабой сінтэз гатычнай і рэнесансавай архітэктуры.

*Літ.*: Lietuvos architektūros istorija. T. 1. Vilnius, 1987. P. 271.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Кенскія**, Мінкевічы, татарскі княжацкі род. Прозвішча паходзіць ад назвы маёнтка Кена (Кена-Кадышэвічы) у Віленскім пав., якім валодалі ў 17—18 ст. З гэтага роду князь Абрагім Алеевіч Мінкевіч-Кенскі, прызначаны 20.11.1619 харужым татарскім віленскім (найманскім). Удзельнічаў у паходзе супраць туркаў у 1621. Пазбаўлены пасады ў сувязі з прысудам да баніцыі. 27.8.1640 атрымаў прывілей на аднаўленне ў званні праз суд; у 1642—44 вёў працэс са сваім пераемнікам, але прайграў. К. пацвердзілі сваё дваранства (з гербам «Радван» і княжацкім тытулам) у Віленскай губ. 8(20).6.1817; Герольдыяй тытул не прызнаны. Яшчэ адна сямʼя князёў К. валодала часткай таго ж маёнтка. З іх князь Фурс Тактамышавіч К. ўпамінаецца ў рэвізіі татарскіх маёнткаў 1559. У 1631 часткай Кены-Кадышэвічаў валодалі яго праўнукі, каля 1676 сямʼя разам з інш. татарамі эмігрыравала ў Турцыю. Магчыма, што ў сваяцтве з адной з гэтых семʼяў татарскі род Кінскіх, які 4(16).6.1819 пацвердзіў сваё дваранства ў Падольскай губ. (без тытула і без паказання герба). Іх продкі разам з інш. татарамі перасяліліся на Украіну ў сярэдзіне 17 ст. Прозвішча К. часам ужывала татарская сямʼя Мухі (Мурза-Мухі), якая пацвердзіла сваё дваранства (з гербам «Кена») у Царстве Польскім і Гродзенскай губ.; сувязь іх радаводу з папярэднімі семʼямі не прасочваецца.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929; Думин С.В. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991. T. 20.

***Станіслаў Думін.***

**Кернажыцкі** Канстанцін Іванавіч [25.9(8.10).1902, в. Выдранка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н—28.2.1942], беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1934). Скончыў БДУ (1926). У 1930—37 працаваў у Ін-це гісторыі АН БССР, адначасова выкладаў у БДУ. У 1937 арыштаваны, у 1939 асуджаны на 8 гадоў зняволення. Выселены ў Сібір, памёр у Канскай бальніцы Краснаярскага краю. Рэабілітаваны ў 1958. Даследаваў аграрную гісторыю Беларусі познафеад. і капіталістычнай эпох, эвалюцыю феад. спосабу вытворчасці ў канцы 17—1-й пал. 19 ст. і гісторыю генезісу капіталізму. Першы зрабіў спробу вырашыць праблему распаду феад.-прыгонніцкай сістэмы, перыядызацыі гісторыі познафеад. перыяду на Беларусі. Разам з Дз.А.Дудковым абгрунтаваў капіталістычны характар аграрнага ладу Беларусі пасля сял. рэформы 1861 пры адначасовым захаванні значных перажыткаў прыгонніцтва. Адзін са складальнікаў зборніка дакументаў «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах» (т. 1, Мінск, 1936).

*Тв.*: Аграрная рэформа ў Бабруйскім старостве і эканамічнае становішча яго насельніцтва з XVI да паловы XIX ст. Мн., 1931; Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імперыялістычнай вайной. Мн., 1932; Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст.: (Да праблемы разлажэння феадалізму ў Беларусі). Мн., 1935.

*Літ.*: Токарев Н. «Его работы сохраняют свою научную ценность» // Навіны Бел. акадэміі навук. 1992. 25 верас.; Панюціч В. «На парэформеннай Беларусі развіццё аграрнага ладу мела капіталістычны характар» // Там жа. 1992. 27 лістап.

***Вячаслаў Панюціч.***

**Кернаў** (літ. Кярнаве, Kernave, цяпер мястэчка ў Шырвінтаскім р-не Вільнюскага пав., Літоўская Рэспубліка), сістэма драўляных замкаў у 13—14 ст., гарадское паселішча ў канцы 13—14 ст. і 15—18 ст. у Віленскім павеце. К. быў адным з племянных цэнтраў Аўк-



**Кернаў**. Гарадзішчы.

штайціі, той яе часткі, якая паводле легендарнай традыцыі была названа Ліступаніяй («берагам трубаў»), у скарочанай версіі — Літвой. Легендарнымі заснавальнікамі К. лічацца, паводле Хронікі Быхаўца, сын і ўнук Палемона Кунас і Кернус, ад імя апошняга паходзіць назва паселішча. Упершыню ўпамінаецца ў 1279 («Старэйшая рыфмаваная хроніка», «Хроніка» Германа з Вартберга) у сувязі з рэйдам нямецкіх рыцараў. Абарончую сістэму К. ў 13—14 ст. утваралі 5 замкаў, размешчаных на правым беразе Вяллі, ад якіх засталіся гарадзішчы: Замкавая Гара (вышыня 30 м, плошча 5,82 га); Гара Ахвярніка (ці Святая Гара; вышыня 13—18 м, плошча 1,3 га); Гара Ліздзейкі (ці Крывайтэ; вышыня 25—30 м, плошча 0,4 га); «Трон Міндоўга» (вышыня 22 м, плошча 1,08 га); Гара Кернава (размешчана асобна ад асн. групы, разам з могільнікам займае 1,48 га). У К. знаходзілася рэзідэнцыя вял. князя *Трайдзеня* [1270—82], магчыма, вял. князя *Віценя* [1295—1316] і першапачаткова вял. князя *Гедзіміна*. Велікакняжацкая рэзідэнцыя лакалізуецца на Гары Ахвярніка. Гандлёва-рамесны пасад размяшчаўся вакол замкаў, а вакольны горад — на Замкавай Гары (тут жыло насельніцтва, што абслугоўвала велікакняжацкі двор). Забудова была драўлянаю. Пахавальны абрад на могільніку сведчыць аб суіснаванні ў К. ў 13—14 ст. язычніцкіх і хрысціянскіх традыцый. У 1365 К. значна разбураны ў час рэйду тэўтонскіх рыцараў. Замкі знішчаны ў 1390 атрадам Тэўтонскага ордэна на чале з маршалам Энгельгартам фон Рабе. Пасля гэтага К. як значны палітычны цэнтр ужо не адрадзіўся, і замкі не былі адноўлены. У 15 ст. жыццё аднавілася ў даліне Паяўта (каля 25 га) на беразе Вяллі па суседству з замчышчамі. Каля 1420 вял. князь Вітаўт заснаваў у К. касцёл. У 1571 кароль і вял. князь Жыгімонт Аўгуст даў К. магдэбургскае права, якое ў 1792 пацвердзіў кароль і вял. князь Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Гістарыяграфічныя творы 16—17 ст. («Хроніка» М.Стрыйкоўскага, Густынскі летапіс, «Гісторыя» А.Каяловіча) называюць К. адным з найважнейшых палітыка-адм. цэнтраў ВКЛ у 13—14 ст. У пэўнай ступені ў тагачаснай гістарыяграфічнай традыцыі К. выступае як канкурэнт Навагарадка ў ранняй гісторыі ВКЛ. У 1960 тэр. стараж. паселішча і замкаў абвешчаны запаведнікам, у 1989 створаны Кярнаўскі археал. і гіст. музей-запаведнік. Сістэматычнае археал. вывучэнне К. праводзіцца з 1979 (П.Кулікаўскас, Р.Кулікаўскене, А.Лухтанас). У 2004 К. занесена ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

*Літ*.: Kernavė. Vilnius, 1972; Kulikauskienė R. Ką slepia Kernavės piliakalniai // Mokslas ir gyvenimas. 1984, Nr. 3; Luchtanas A. Kernavė: Pajautos slėnio paslaptys // Kultūros barai. 1990. № 3, 4; Vėlius G. Kernavės-Kriveikiškio kapinynas XIII—XIV a. // Baltų archeologija. 1997. № 10; Vitkūnas J. Kernavė. Vilnius, 1999; Kernavė — litewska Troja: Katalog wystawy ze zbiorów Państwowego Muzeum-Rezerwatu Archeologii i Historii w Kernavė, Litwa. Warszawa, 2002; State cultural reserve of Kernavė (http://www.kernave.org); UNESCO. World heritage. Kernavė archaeological site (Cultural reserve of Kernavė) (http: // whc.unesco.org / pg. cfm?cid=31&id_site=1137).

***Алег Дзярновіч.***

**Керсніцкі** Афанасій Людвік (15.7.1678, мяст. Гальшаны Ашмянскага пав.—13.1.1733), дзеяч каталіцкай царквы, педагог. Д-р права (1723). З 1694 езуіт, з 1705 святар. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, Пінску (1696—99), Варшаве (1702—06). Выкладаў у Гародні, Пултуску і Варшаве (1699—1702), пасля рыторыку ў Вільні (1706—07) і Варшаве (1707—08), каралеўскі прапаведнік і бібліятэкар калегіума ў Варшаве (1709—21), рэктар Слуцкага калегіума (1722—25), збудаваў там мураваны будынак б-кі, прэфект школы ў Гародні (1727—28), суперыёр у Дарагічыне (1728—32), дзе будаваў новы калегіум, пасля прапаведнік і выкладчык права ў Вільні. Выдаў зборнікі казанняў «Ключы да сардэчнага скарбу» («Klucze do skarbu serdecznego», Вільня, 1725), «Вольны голас нядзельных казанняў» («Wolny głos mow niedzielnych», Варшава, 1727), пад імем Я.Ф.Л.Сапегі — гісторыю Коданскага абраза Маці Божай «Помнікі марыянскіх старажытнасцей» («Monumenta antiquitatum marianarum», Варшава, 1721) і «Гістарычныя заўвагі пра паходжанне... рыцарскага ордэна Белага Арла» («Adnotationes historicae de origine... Ordinis Equitum Aquile Albae», Варшава, 1730). Пасмяротна выйшаў пераклад кнігі Т.Арэнта «Небасхіл праўды» (Варшава, 1738). Лічыўся адным з найб. значных прамоўцаў 1-й пал. 18 ст.

**Кіева-Магілянская акадэмія**, гуманітарная навучальная ўстанова для праваслаўных у 1632—1817 у Кіеве. Заснавана як калегіум мітрапалітам кіеўскім *Пятром II* Магілаю па прапанове *Сільвестра* Косава ў выніку аб'яднання школы Кіеўскага правасл. брацтва (створана адначасова з брацтвам у 1615) і школы Кіева-Пячэрскай лаўры (створана ў 1631 па ініцыятыве мітрапаліта). У гонар заснавальніка названы Кіева-Магілянскім. Дзейнічаў пад сумеснай апекай Пятра Магілы і прадстаўнікоў брацтва. Выкладанне вялося на ўзор зах.-еўрапейскіх навуч. устаноў. Спачатку калегіум меў 7 класаў: падрыхтоўчы (аналогія або фара), 3 ніжэйшыя (інфіма, граматыка, сінтаксіма) і 3 вышэйшыя (паэтыка, рыторыка, філасофія). У падрыхтоўчым і ніжэйшых класах гал. чынам вывучаліся мо-



**Кіева-Магілянская акадэмія**. Стараакадэмічны (Мазепаў) корпус.

вы: «славяна-руская» (тагачасная літаратурная мова, якая ўжывалася на Беларусі і Украіне), царк.-слав., польская, лацінская і грэчаская; пазней у праграму ўключаны зах.-еўрапейскія мовы. У старэйшых класах вывучаліся «сем вольных мастацтваў» і філасофія, а таксама даваліся звесткі па гісторыі і геаграфіі. У 1689 адкрыты 8-ы клас, у якім вывучалі тэалогію, што ставіла калегіум на ўзровень вышэйшай навучальнай установы. Статус акадэміі нададзены калегіуму указам цара Пятра I у 1701. У год стварэння ў калегіуме вучылася каля 160 чал., на рубяжы 17—18 ст. — 1000 чал., у сярэдзіне 18 ст. — 1200 чал. У 1817 акадэмія пераўтворана ў духоўную семінарыю (з 1819 духоўная акадэмія, праіснавала да 1920). К.-М.а. адыграла вял. ролю ў пашырэнні асветы не толькі на Украіне, але і на Беларусі, давала магчымасць вучыцца бел. правасл. моладзі (усе навуч. ўстановы такога ўзроўню на Беларусі таго часу былі ў падпарадкаванні каталікаў). Сярод яе навучэнцаў і выкладчыкаў былі вядомыя на Беларусі царк. дзеячы: *Іосіф* Канановіч-Гарбацкі, *Георгій* Каніскі, Сільвестр Косаў, *Сімяон Полацкі* і інш. У ёй атрымлівалі адукацыю таксама студэнты з Балгарыі, Грэцыі, Малдавіі, Расіі, Сербіі.

*Літ.*: Булгаков М. История Киевской Академии. СПб., 1843; Хижняк З.И. Киево-Могилянськая Академия. Київ. 1988.

***Юрась Лаўрык.***

**Кіеў** (укр. Київ, цяпер сталіца Украіны), горад, цэнтр *Кіеўскага княства*, пасля *Кіеўскага ваяводства*, на р. Дняпро. У летапісах упершыню ўпамінаецца ў 860, палітычны цэнтр Кіеўскай Русі. У канцы 10 ст. створана *Кіеўская праваслаўная мітраполія*. У 1240 разбураны мангола-татарамі, пасля чаго ім кіравалі залежныя ад Залатой Арды князі, потым баскакі (апошні ўпамінаецца ў 1331). У 1320-х г. заняты вял. князем літоўскім Гедзімінам, паход якога гісторыкі датуюць па-рознаму (Батура Р. — 1325, Рогаў А.І. — 1322, Шабульдо Ф.М. — 1324, іншыя адмаўляюць гіст. верагоднасць гэтых падзей). У 1-й пал. 14 ст. створана *Кіеўская рымска-каталіцкая епархія*. З 1331 упамінаецца кіеўскі князь *Фёдар*, які княжыў да 1362, скінуты ў выніку паходу вял. князя літоўскага Альгерда. У сучаснай укр. гістарыяграфіі пераважае думка, што ў 1362—63 адбылося паўторнае ўключэнне К.ў ВКЛ Альгердам. У 1362—94 кіеўскім князем быў *Уладзімір Альгердавіч*. У часы яго праўлення адбываўся культ.-эканам. ўздым горада, качэўнікі амаль не нападалі на Кіеўскую зямлю. Відаць, пры Уладзіміру пабудаваны новы *Кіеўскі замак* на гары, што ўзвышалася над Падолам. У 1395—96 кіеўскі стол займаў *Скіргайла*. У 1397 створаны *Кіеўскі Псалтыр*. У 1397—98 кіяўляне ўдзельнічалі ў паходах войск ВКЛ у прычарнаморскія стэпы. Відаць, з 1399 кіеўскім намеснікам стаў князь Іван Гальшанскі. Пасля паражэння войск ВКЛ у *бітве на Ворскле 1399* К. абложаны войскамі Цімур-Кутлука, быў захоплены Падол, а гараджане вымушаны былі выплаціць «окупъ 3000 рублей литовскихъ» і яшчэ 30 «рублевъ» узята з Пячэрскага манастыра. У ліп. 1416 К. разбураны войскамі Едыгея, замак вытрымаў аблогу. У час *феадальнай вайны 1432—39* у пач. 1436 у К. знаходзіўся вял. князь Свідрыгайла. Наступленне войск Жыгімонта на К. у 1437 было адбіта гар. апалчэннем пад кіраўніцтвам кіеўскага ваяводы *Юршы*, але пасля 2-га паходу горад быў падпарадкаваны Жыгімонту. У 1440 Кіеўскае княства адноўлена, яго трымалі Аляксандр (Алелька) Уладзіміравіч (да 1455), потым яго сын Сямён (да 1470). У часы іх праўлення адбывалася развіццё эканам. і культ. жыцця К., у 1470 адноўлены Успенскі сабор Кіева-Пячэрскага манастыра. У 15 ст. створаны новыя рэдакцыі Кіева-Пячэрскага пацерыка (Арсеньеўская ў 1406, Касіянаўская ў 1462), перапісаны «Талковае Евангелле» (1431), «Лесвіца» (1455), «Златаструй». У 1471 Кіеўскае княства скасавана і ўтворана *Кіеўскае ваяводства* (першым ваяводам стаў Марцін Гаштольд). У 1480—81 у К. Міхаіл Алелькавіч, Іван Гальшанскі і Фёдар Бельскі арганізавалі *змову 1481* супраць Казіміра IV. У жн. 1482 К. разбураны войскамі крымскага хана Менглі-Гірэя, кіеўскі ваявода Іван Хадкевіч уведзены ў палон. Па загадзе Казіміра IV для адбудовы горада сабрана 20 тыс. чал. У 1494—97 К. атрымаў магдэбургскае права (пацверджана ў 1516 і 1544). У 1497 вял. князь Аляксандр падараваў кіеўскім магістрацкім мяшчанам права беспадатковага гандлю на ўсёй дзяржаве (у 1615 Жыгімонт III пашырыў гэтае права і на замкавых мя-



Да арт. **Кіеў**. Войска ВКЛ на чале з гетманам Я.Радзівілам уступае ў Кіеў у 1651. Малюнак А. ван Вестэрфельда (копія 18 ст.).

шчан). У 1-й пал. 16 ст. створаны «Каროткі Кіеўскі летапіс». З 1569 К. у складзе Рэчы Паспалітай. У 1571 у К. зафіксавана 65 рамеснікаў (26 шаўцоў, 13 кушняроў, 12 краўцоў, 3 кавалі, 2 лучнікі, 2 ганчары). Пасля заключэння Берасцейскай уніі 1596 створана *Кіеўская грэка-каталіцкая мітраполія*. У 1615 заснавана друкарня пры Кіева-Пячэрскай лаўры. Каля 1615 пры Богаяўленскім манастыры створана Кіеўскае правасл. брацтва і школа пры ім. У 1631 заснавана школа пры Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1632 створана *Кіева-Магілянская акадэмія*. У 1634—44 адбудаваны Сафійскі сабор, у 1635—36 — Выдубіцкі манастыр. У сярэдзіне 17 ст. дзейнічалі 4 касцёлы, дамініканскі кляштар, езуіцкі калегіум (з 1647). У *антыфеадальную вайну 1648—51* у снеж. 1648 у К. увайшло войска Б. *Хмяльніцкага*, у ліп. 1651 — Я. *Радзівіла*. Вынікам *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* было заключэнне *Андросаўскага перамір'я 1667* паводле якога Рэч Паспалітая згадзілася на перадачу Расіі К. і яго прыгарадаў у радыусе 1 мілі да 15.4.1669, аднак горад не быў вернуты Рэчы Паспалітай. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 404.

*Літ.*: Ивакин Г.Ю. Киев в XIII—XV веках. К. 1982; Толочко П.П. Древний Киев. К., 1983; Його ж. Історичний розвиток Києва XIII—середини XVI ст. Київ, 1996.

***Валерый Грынявецкі.***

**Кіеўскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ і Польскага каралеўства. Утворана ў 1471 замест *Кіеўскага княства*. Падзялялася на Асцёрскі, Житомірскі, Кіеўскі, Любецкі, Мазырскі, Оўруцкі, Пуціўльскі, Чаркаскі, Чарнобыльскі паветы. У 1507 і 1529 К.в. атрымала ад вял. князя Жыгімонта Старога прывілеі, якія гарантавалі ваяводству пэўныя аўтаномныя правы. У час адм.-тэр. рэформы 1565—66 са складу К.в. вылучаны Мазырскі пав., які ўключаны ў Менскае ваяв. На Люблінскім сойме 1569 у час заключэння уніі ВКЛ з Польшчай дэпутаты К.в. выступілі за далучэнне ваяводства да Польскага каралеўства, што зацверджана каралеўскім прывілеем 6.6. 1569. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. К.в. падзялялася на Житомірскі, Кіеўскі і Оўруцкі пав., існавалі Белацаркоўскае, Багуслаўскае, Канеўскае, Корсунскае, Раманаўскае, Чаркаскае і Чыгірынскае староствы. У складзе Кіеўскага пав. былі крайнія пайд.-ўсх. землі сучаснай Беларусі, у т.л. Брагін і Лоеў. Паводле Збораўскага дагавора 1649 паміж гетманам Б.Хмяльніцкім і каралём Янам II Казімірам некаторыя тэрыторыі К.в., у т.л. Кіеўскі пав., аддадзены ў гетманскае кіраванне, у 1660 зноў падпарадкаваны Польшчы. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* у К.в. засталіся толькі правабярэжныя паветы (без Кіева), цэнтрам ваяводства стаў Житомір. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) тэр. К.в. ўвайшла ў склад Кіеўскага і Валынскага намесніцтваў Рас. імперыі.

Ваяводы кіеўскія ў ВКЛ: М.Гаштольд (1471—80), І.Хадкевіч (1480—84), Юрый Пацавіч (1486—92), Дз.І. Друцкі (Пуцяціч; 1492—1505), І.Л. Глінскі (1505—06), Ю.М.Мантоўтавіч (1507—08), Ю.А.Гальшанскі (1508—10), Ю.М.Радзівіл (1511—1514), А.Я.Немiровіч (1514—1540), А.М.Сангушка (1540—42, фармальна спраўца, г.зн. намеснік ваяводы), Я.Ю.Гальшанскі-Дубровіцкі (1542—44), Ф.Г.Пронскі (1544—55), Р.А.Хадкевіч (1555—59), К.(В.)К.Астрожскі (1559—1608).

Кашталян кіеўскі ў ВКЛ — П.І.Сапега (1566—80).

*Літ.*: Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Литовский период. Одесса, 1912; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 3. Ziemie ruskie. Z. 4. Urzędnicy województw kijowskiego i czernihowskiego XV—XVIII wieku: Spisy / Opracowali E.Janas i W.Kłaczewski. Kórnik, 2002.



Аўтар В.Л.Насевіч



**Кіеўскае княства**, феадальная дзяржава ва Усх. Еўропе. Існавала ў 11—15 ст. на тэр. сучасных Кіеўскай і Житомірскай абласцей Украіны і ПдУ Беларусі (нізоўі Прыпяці з гарадамі Брагін і Мазыр). Пасля замацавання ў 11—12 ст. княстваў і зямель Кіеўскай Русі за асобнымі галінамі Рурыкавічаў засталося пад непасрэдным кантролем кіеўскага князя. Уладальнік К.к. лічыўся вярхоўным сюзерэнам усёй Русі, але з канца 12 ст. яго верхавенства ў значнай ступені фармальнае. К.к. не мела трывалай княжацкай дынастыі і пастаянна пераходзіла да прадстаўнікоў найб. значных у той час галін Рурыкавічаў: чарнігаўскіх Ольгавічаў, валынскіх, смаленскіх і ўладзіміра-суздальскіх Манамахавічаў. Пасля заваявання Кіева татарамі ў 1240 перайшло пад уладу Залатой Арды, ханы якой спачатку перадавалі княства залежным ад сябе князям, з 2-й пал. 13 ст. кіравалі ім праз сваіх упаўнаважаных — баскакаў. Паводле бел.-літ. летапісаў, у часы княжання Гедзіміна падпарадкавана ВКЛ (большасць даследчыкаў ставіць гэта пад сумненне). У 1331 побач з баскакам упамінаецца кіеўскі князь *Фёдар*, якога адны даследчыкі лічаць братам вял. князя Гедзіміна, другія — выхадцам са смаленскай княжацкай дынастыі. У 2-й пал. 14 ст. вял. князь Альгерд, карыстаючыся аслабленнем Залатой Арды, далучыў К.к. да ВКЛ і ўтварыў там удзел для свайго сына *Уладзіміра Альгердавіча*, які ў канцы 14 ст. карыстаўся значнай самастойнасцю і выпускаў уласную манету. Тэрыторыя К.к. ў гэты час значна пашырылася на ПдУ, уключыла былыя Пераяслаўскае і Канеўскае княствы. На тэр. Беларусі яго межы былі прыкладна такія ж, як і ў папярэдні перыяд. Каля 1394 вял. князь Вітаўт адабраў К.к. ад Уладзіміра і перадаў брату апошняга *Скіргайлу*. У канцы 14 ст. К.к. было часова ператворана ў намесніцтва, але ў 1440 аднаўлена і перададзена ва ўдзел сыну Уладзіміра Алельку (гл. ў арт. *Алелькавічы*). Пасля яго смерці ў 1455 К.к. перайшло да яго сына Сямёна Алелькавіча. У гэты час яно складалася з асобных княжацкіх і баярскіх вотчын, а таксама з валасцей, якімі кіравалі па чарзе кіеўскія баяры. На тэр. Беларусі знаходзіліся Бчыцкая (Пціцкая), Мазырская, Брагінская, Уборцкая валасці. Пасля смерці князя Сямёна (1470) К.к. канчаткова скасавана і ператворана ў *Кіеўскае ваяводства*.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кіеўская грэка-каталіцкая мітрапаліцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка уніяцкай царквы. Узнікла на аснове *Кіеўскай праваслаўнай мітрапаліцкай епархіі*, пасля таго як у 1596 кіеўскі мітрапаліт прыняў унію. Падпарадкоўвалася непасрэдна кіеўскаму мітрапаліту. Была самай вялікай епархіяй *Кіеўскай грэка-каталіцкай мітраполіі*. З канца 16 ст. ахоплівала Кіеўскае, Навагародскае, Менскае, Віленскае, Троцкае ваяводствы і Жамойць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 епархія скасавана, яе цэрквы і манастыры падначалены полацкаму архіепіскапу.

**Кіеўская грэка-каталіцкая мітраполія**, адм.-тэр. адзінка грэка-каталіцкай царквы. Утворана на аснове *Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі* ў выніку заключэння *Берасцейскай уніі 1596*, калі правасл. мітрапаліт кіеўскі Міхаіл Рагоза і епіскапат Рэчы Паспалітай (акрамя 2 епіскапаў) прызналі вяршэнства рымскага папы. Юрыдычна ахоплівала ўсе былыя правасл. землі Рэчы Паспалітай. Узначальвалася мітрапалітам (меў тытул мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і ўсяе Русі), які пасля яго абрання або прызначэння каралём зацвярджаўся рымскім папам. У склад мітраполіі з 1596 уваходзілі епархіі: Кіеўская мітрапаліцкая, Уладзіміра-Берасцейская, Полацкая, Холмская, Пінская, пасля далучаны Смаленская (1612), Перамышльская (1692), Львоўская (1700), Луцкая (1702). У 1671 мітраполіі падпарадкавана каля 1600 цэркваў у Венгрыі і Трансільваніі, а таксама Мукачаўская епархія. Епіскапы зацвярджаліся мітрапалітам. Кафедра мітрапаліта знаходзілася ў *Віленскім Прачысценскім саборы*. У выніку 3 падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) тэрыторыя К.г.-к.м. падзелена паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Скасавана Полацкім царк. саборам 1839.

Мітрапаліты кіеўскія, галіцкія і ўсяе Русі (да 1795): Міхаіл Рагоза (1596—99, у 1589—96 правасл. мітрапаліт), Іпацій Пацей (1599—1613), Іосіф Руцкі (1613—37), Рафаіл Корсак (1637—40), Антоній Сялява (1641—55), Гаўрыіл Календа (1665—74), Кіпрыян Жахоўскі (1674—93), Леў Заленскі (1694—1708), Юрый Вінніцкі (1710—13), Леў Кішка (1714—28), Афанасій Шаптыцкі (1729—46), Фларыян Грабніцкі (1748—62), Феліцыян Валадковіч (1762—78), Леў Шаптыцкі (1778—79), Ясон Смагаржэўскі (1780—88), Феадосій Растоцкі (1788—95).

**Кіеўская праваслаўная мітрапаліцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Падпарадкоўвалася непасрэдна кіеўскаму мітрапаліту. Самая вял. епархія *Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі*. У канцы 16 ст. ўключала Кіеўскае, Навагародскае, Менскае, Віленскае, Троцкае ваяводствы, Жамойць. Да 13 ст. епархія ахоплівала, відаць, толькі Кіеўскае княства. Далучэнне ў яе склад Менска, Навагародка, Гародні і Вільні адбылося, магчыма, у 2-й пал. 15 ст. ў сувязі са скасаваннем *Літоўскай мітраполіі* (відаць, гэтыя гарады ў пач. 14 ст. былі вылучаны ў асобную епархію для забеспячэння літоўскіх мітрапалітаў). Пасля *Берасцейскай уніі 1596* яна стала *Кіеўскай грэка-каталіцкай мітрапаліцкай епархіяй*. Адроджана ў 1-й пал. 17 ст. У 17—18 ст. непасрэдна ахоплівала ўсю тэрыторыю ВКЛ за выключэннем абшару *Магілёўскай праваслаўнай епархіі*, на З даходзіла да Яблачынскага манастыра, гарадоў Дарагічын і Бельск, на ПнЗ — да Вільні і Трокаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 на частцы тэрыторыі К.п.м.е. створана Мінская праваслаўная епархія, якая пасля 1795 пашырана на астатнія землі былога ВКЛ.

***Валерый Пазднякоў.***

**Кіеўская праваслаўная мітраполія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Утворана ў Кіеўскай Русі ў 990-х г. (да 997) як 60-я мітраполія Канстанцінопальскага патрыярхата. Кафедра мітрапалітаў — Кіеўская царква Багародзіцы (Дзесяцінная), з сярэдзіны 11 ст. — Кіеўскі Сафійскі сабор. Падзялялася на епархіі (17 у 2-й пал. 13 ст., у т.л. Полацкая, Тураўская, Смаленская, Уладзімірская, Галіцкая, Холмская, Чарнігаўская). У 11 ст. некаторы час існавалі Чарнігаўская і Пераяслаўская мітраполіі. На пасаду мітрапаліта сінод у Канстанцінопалі выбіраў 3 кандыдатаў, аднаго з якіх зацвярджаў



патрыярх; некаторых кандыдатаў прапаноўвалі вял. кіеўскія князі і візантыйскія імператары. Мітрапаліты былі незалежнымі ад патрыярхаў у кіраванні мітраполіяй, але патрыярхі былі вышэйшай судовай інстанцыяй для духоўных судоў. Пасля разгрому Кіева манголамі ў сярэдзіне 13 ст. рэзідэнцыя кіеўскіх мітрапалітаў перанесена ва Уладзімір-на-Клязьме, у пач. 14 ст. — у Маскву. Гэта стала адной з прычын заснавання ў пач. 14 ст. падначаленых канстанцінопальскаму патрыярху *Галіцкай мітраполіі* і *Літоўскай мітраполіі*, якія ахоплівалі адпаведна Галіцка-Валынскае княства і ВКЛ. Кіеўскія (маскоўскія) мітрапаліты вялі барацьбу за скасаванне гэтых мітраполій і часам падпарадкоўвалі сваёй юрысдыкцыі ўсе землі былой Кіеўскай Русі, у т.л. ВКЛ. У 1350-х г. у Кіеве быў незалежны ад Канстанцінопаля і Масквы мітрапаліт *Феадарыт*. У 1354 канстанцінопальскі патрыярх пастанавіў, што кафедра кіеўскіх мітрапалітаў афіцыйна перанесена ва Уладзімір-на-Клязьме (ва Успенскі сабор), аднак мітрапалітам пакінуты ранейшы тытул. У 1392 прыняты тытул «мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі». Пасля заключэння *Фларэнційскай уніі 1439* Кіеўскую мітраполію афіцыйна ўзначальвалі мітрапаліты-уніяты *Ісідор* і *Грыгорый II* Балгарын, адначасова ў Маскоўскай дзяржаве быў абраны правасл. мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі *Іона I*. Паміж 1448—50 мітрапаліцкі тытул скарочаны («усея Русі»), але ў 1450—61 зноў поўны. Абраны ў Маскве ў 1461 мітрапаліт Феадосій меў царк. ўладу толькі ў Маскоўскай дзяржаве; з таго часу мітрапаліты маскоўскія мелі тытул «маскоўскі і ўсяе Русі». Кіеўскія мітрапаліты ў ВКЛ, што выбіраліся вял. князямі і зацвярджаліся канстанцінопальскімі патрыярхамі, працягвалі карыстацца тытулам «кіеўскі і ўсяе Русі» («кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі»), такім чынам з сярэдзіны 15 ст. К.п.м. ахоплівала толькі правасл. землі ВКЛ і Польскага каралеўства. Складалася з Полацкай, Пінскай, Смаленскай, Чарнігаўскай, Уладзімірскай, Луцкай, Холмскай, Перамышльскай, Галіцкай (з 1539 Львоўскай) епархій. Найбольшай была мітрапаліцкая епархія, што знаходзілася пад непасрэднай юрысдыкцыяй мітрапаліта і ахоплівала Кіеўскае, Менскае, Новагародскае, Троцкае, Віленскае ваяв. і Жамойць. Кафедра мітрапалітаў знаходзілася ў *Віленскім Прачысценскім саборы*, рэзідэнцыі — у Новагародку і Вільні. Пасля заключэння *Берасцейскай уніі 1596* мітрапаліт кіеўскі і большасць епіскапаў К.п.м. прынялі царк. унію (гл. *Кіеўская грэка-каталіцкая мітраполія*).

У 1620 іерусалімскі патрыярх Феафан III са згоды канстанцінопальскага патрыярха Цімафея II і пры падтрымцы ўкр. казакоў аднавіў К.п.м. і пасвяціў правасл. мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі *Іова* Барэцкага і некалькіх епіскапаў, што не было прызнана ўладамі Рэчы Паспалітай. К.п.м. ахапіла Полацкую, Пінскую, Смаленскую, Луцкую, Пераяслаўскую, Холмскую і Уладзімірскую епархіі. Правасл. царква ў Рэчы Паспалітай легалізавана ў 1632. Кароль Уладзіслаў IV прызначыў мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі *Пятра II* Магілу, якому былі падначалены Магілёўская, Львоўская, Луцкая і Перамышльская епархіі. У 1650 адноўлена Чарнігаўская епархія. У выніку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* частка К.п.м. (Левабярэжная Украіна і Кіеў) адышла да Расіі. У 1685 правасл. мітрапалітам кіеўскім абраны Гедэон Чацвярцінскі (гл. ў арт. *Чацвярцінскія*), які прызнаў вяршэнства маскоўскага патрыярха Іаакіма і быў ім пасвячоны ў Маскве. З гэтага часу К.п.м. падпарадкавана Маскоўскаму патрыярхату, што прызнаў у 1686 канстанцінопальскі патрыярх. У 1688 царскім указам кіеўскаму мітрапаліту забаронена тытулавацца мітрапалітам «усяе Русі», ён стаў называцца мітрапалітам «кіеўскім, галіцкім і Малыя Расіі». У 1691 прыняў унію перамышльскі епіскап, у 1700 — львоўскі, у 1702 — луцкі, пасля гэтага праваслаўнай у Рэчы Паспалітай засталася толькі Магілёўская (Беларуская) епархія, што ахоплівала тэрыторыю б. Полацкай епархіі, астатнія землі Рэчы Паспалітай знаходзіліся пад непасрэднай юрысдыкцыяй кіеўскага мітрапаліта. У 1721 рас. імператар Пётр I скасаваў Маскоўскі патрыярхат, К.п.м. ператорана ў архіепархію на чале з архіепіскапам кіеўскім і галіцкім. У 1743 імператрыца Лізавета па просьбе архіепіскапа Рафаіла Забароўскага аднавіла К.п.м. У 1767 Кацярына II забараніла мітрапаліту далучаць да свайго тытула словы «Малыя Расіі». З сярэдзіны 1780-х г. уладу над мітрапаліцкай епархіяй у ВКЛ ажыццяўляў *Віктар* Садкоўскі з тытулам епіскапа пераяслаўскага і барыспальскага і рэзідэнцыяй у Слуцку, аднак хутка ён быў зняволены па абвінавачванні ў здрадзе. Каб скасаваць залежнасць парвасл. царквы Рэчы Паспалітай ад рас. урада, *Пінская кангрэгацыя 1791* і *Чатырохгадовы сойм 1788—92* прынялі рашэнні аб стварэнні ў межах Рэчы Паспалітай асобнай правасл. мітраполіі, падпарадкаванай канстанцінопальскаму патрыярху, аднак гэта не было рэалізавана з-за падзелаў Рэчы Паспалітай.

Мітрапаліты кіеўскія (сярэдзіна 13—канец 18 ст.): Кірыла III (да 1242—81), Максім (1283—1305), Пётр I (1308—26), Феагност (1328—53), Феадарыт (1352?—55?), Аляксей (1354—78), Кіпрыян (1375—80, 1389—1406), Пімен (1380—89), Дыянісій (1384—85), Фоцій (1408—31), Грыгорый I Цамблак (1415—19), Герасім (1432—35), Ісідор (1437—58, з 1439 уніят), Іона I (1448—61), Грыгорый II Балгарын (1458—72 або 1473, да 1469 уніят), Місаіл I (Міхаіл I; 1475—80), Спірыдон (1475—82), Сімяон (1481—88), Іона II Глезна (1489—94), Макарый I Чорт (1495—97), Іосіф I Балгарынавіч (1498—1501), Іона III (1503—07), Іосіф II Солтан (1507—21 або 1522), Іосіф III (1522—34), Макарый II (1534—56), Сільвестр I Бялькевіч (1556—67), Іона IV Пратасовіч-Астроўскі (1568—77), Ілья Куча (1577—79), Анісіфар Пятровіч-Дзевачка (1579—89), Міхаіл II Рагоза (1589—99, з 1596 уніят), Іоў Барэцкі (1620—31), Ісая Капінскі (1631—40), Пётр II Магіла (1632—47), Сільвестр II Косаў (1647—57), Дыянісій Балабан (1657—63), Іосіф IV Нелюбовіч-Тукальскі (1664—76), Антоній Вінніцкі (1664—79), Гедэон Чацвярцінскі (1685—90), Варлаам I Ясінскі (1690—1707), Іаасаф Кракоўскі (1708—18), Варлаам II Ванатовіч (1722—30, архіепіскап), Рафаіл Забароўскі (1731—47, да 1743 архіепіскап), Цімафей Шчарбацкі (1748—57), Арсеній Магілянскі (1757—70), Гаўрыіл Крамянецкі (1770—83), Самуіл Міслаўскі (1783—96).

*Літ.*: Чистович И.А. Очерк истории западно-русской церкви. Т. 1—2. СПб., 1882—84; Пятницкий А. Очерк истории Киевской митрополии в период времен отдельного ея существования от мит-

рополии Московской (1459—1686). Могилев, 1891; Рыбинский В. Киевская митрополичья кафедра с половины XIII до конца XVI века // Тр. Киевской духовной академии. 1891. № 1, 4, 5; Голубинский Е.Е. История русской церкви. Т. 1—2. М., 1900—11; Титов Ф.И. Русская православная церковь в Польско-Литовском государстве в XVII—XVIII вв. Т. 1—3. Киев, 1905; Chodynicki K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska: Zarys historyczny, 1370—1632. Warszawa, 1934; Mironowicz A. Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. Białystok, 2001.

*Валерый Пазднякоў.*

**Кіеўская рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Заснавана ў 1-й пал. 14 ст. (фармальна — каля 1405). Захады па ўтварэнні епархіі ў 1-й пал. 13 ст. рабілі польскія дамініканцы, аднак у 1233 яны выгнаны з Кіева. У 1320 біскуп любускі Стафан прызначыў біскупам кіеўскім Генрыка з Паздавілька, які быў зацверджаны рымскім папам Янам XXII. Відаць, хутка пасля епархія занепала. У 1375 папа Грыгорый XI пытаўся ў арцыбіскупа гнезненскага Януша Сухывілька, ці мае касцёл у Кіеве правы кафедральнай святыні. Відаць, канчаткова юрыдычна аформіў епархію польскі кароль Уладзіслаў II (Ягайла) каля 1405. Першапачаткова епархія ахоплівала Кіеўскае, Чарнігаўскае, Смаленскае, Мажайскае княствы, ноўгарад-северскія землі. Кафедра кіеўскіх біскупаў знаходзілася ў касцёле св. Яна Хрысціцеля. У 1-й пал. 17 ст. налічвала 19 парафій, 4 касцёлы былі ў Кіеве, рэзідэнцыя біскупа знаходзілася ў Кіеве. У 1619 заснавана капітула з 3 прэлатаў і 4 канонікаў. У 1635 смаленскія землі ўвайшлі ў склад *Смаленскай рымска-каталіцкай епархіі*. Пасля заключэння *Андросаўскага пераміp'я 1676* і *«Вечнага» міру 1686* епархія ахоплівала толькі Кіеўскі, Оўруцкі і Жытомірскі паветы, рэзідэнцыя біскупа знаходзілася ў Жытоміры. У сярэдзіне 18 ст. епархія падзялялася на 2 архідыяканаты (Кіеўскі і Чарнігаўскі), 3 дэканаты (Фастаўскі, Оўруцкі, Жытомірскі), налічвала 21 парафію (у 1793 — 43 парафіі), працавала духоўная семінарыя.

*Валерый Пазднякоў.*



**Кіеўскі замак** у сярэдзіне 16 ст. Рэканструкцыя Т.Я.Стральцовай.

**Кіеўскі замак**, адміністрацыйны цэнтр і гарадская фартэцыя г. *Кіеў* у 14—17 ст., буйнейшая драўляная фартэцыя на ўкраінскіх землях. Першапачатковы драўляны замак пабудаваны ў Кіеве ў апошняй трэці 14 ст. першым кіеўскім князем літ. паходжання *Уладзімірам Альгердавічам* на плато Замкавай гары, што ўзвышаецца над Падолам. Сфарміраваўся новы адм. цэнтр Кіева, гэта перапыніла традыцыю размяшчэння рэзідэнцыі ў Старым горадзе, дзе раней жылі вял. князі кіеўскія. Замкавая гара вядома таксама пад назвамі Кісялёўка (ад імя ваяводы А.Кісяля), Флароўская (ад манастыра, які меў там у 19 ст. могілкі); часта атаясамліваецца з летапіснай Харавіцай; існуе аргументаваная версія, што на Замкавай гары збудаваў свой першы град Кій, які пазней перасяліўся на Старакіеўскую гару. Да 16 ст. замак прыйшоў у заняпад. Яго вял. перабудова пачалася каля 1542 пад кіраўніцтвам гараднічага І.Служкі. Патрэба ў новым замку была выклікана крымскімі нападамі. Паводле люстрацыі 1552 вядома, што дрэваземляны замак складаўся з 133 гародняў (прамавугольных зрубаў, запоўненых зямлёй і каменнем; гародні шчыльна ставіліся адна да адной і тарцамі ўтваралі абарончую сцяну) і меў 15 веж, дзве з якіх былі брамнымі — Ваяводзіная (на Пн) і Драбская (на Пд). Вял. колькасць вежаў абумоўлена фактарам агнястрэльнай зброі. Перад Драбскай брамай знаходзіўся перакінуты цераз роў мост «з узводам на ланцугах двух». Вежы мелі 3 ярусы, 13 з іх былі шасцівугольныя ў плане, адна (Ваяводзіная) — прамавугольная, а Драбская — шасцярык на чацверыку. На вежы, арыентаванай на Падол, знаходзіўся гадзіннік. Сцены фартэцыі звонку былі абмазаны глінай і атынкаваны да 2-га яруса, дзе меласся бланкаванне — галерэя, якая выступала са знешняга боку. У падлозе галерэі знаходзіліся адтуліны («подсябитья») для паражэння ворага, які падступіў пад сцены замка. У гароднях былі зроблены байніцы ніжняга бою — пішчальныя і мушкетныя. У вежах стаялі гарматы. Паводле фартыфікацыйных характарыстык К.з. належыць да замкаў нерэгулярнага тыпу, якія будаваліся на цяжкадаступных тэрыторыях, абмежаваных прыроднымі перашкодамі. Планіроўка такіх замкаў была абумоўлена тапаграфічнымі ўмовамі і геамарфалогіяй мясцовасці, а лінія сцяны праходзіла па перыметры пагорка. На тэр. К.з. знаходзіліся палац ваяводы разам з канцылярыяй (збудаваны ў цэнтры замка на ўзвышшы), «гаспадарскі двор», 3 правасл. царквы, касцёл, дом ротмістра, двары Пустынніцкага і Сафійскага (Пячорскага) манастыроў, 30 інш. жылых пабудоў («30 десятничьих домков»), а таксама склады зброі і прадуктаў харчавання (у т.л. ў гароднях), гаспадарчыя пабудовы, глыбокая студня. Люстрацыя 1570 прыгадвае толькі 7 веж (магчыма таму, што іншыя 8 былі менш значныя). Пасля пападання маланкі ў 1605 К.з. гарэў, што запатрабавала яшчэ адну перабудову. Замак праіснаваў да сярэдзіны 17 ст.,

калі быў спалены казакамі Б.Хмяльніцкага і больш не аднаўляўся, а сама тэр. Замкавай гары была на доўгі час закінутай. Археал. даследаванні праводзіліся ў 1932—34, 1940, 1948, 1977. Навук. рэканструкцыя замка зроблена Т.Стральцовай і С.Кошкіным (макет знаходзіцца ў Музеі гісторыі Кіева).

*Літ.*: Архив Юго-Западной России. Киев, 1886. Ч. 7, т. 1. С. 106—122 (люстрацыя 1552); 1905. Ч. 7, т. 3. С. 1—7 (люстрацыя 1570); Яковенко Н.М. Нове джерело про Київський замок // Архіви України. 1980. № 2; Стрельцова Т.Е. Киевский замок в середине XVI в. // Памятники культуры: Новые открытия. 1999. М., 2000; Історія української культури. Київ, 2001. Т. 2. С. 270, 418.

***Алег Дзярновіч.***

**Кіеўскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Утвораны ў 1471 у складзе *Кіеўскага ваяводства*. Паводле адм. рэформы 1565—66 павялічаны за кошт тэрыторыі скасаванага Чарнобыльскага пав., які ахопліваў частку тэр. сучаснай Беларусі (абапал р. Жалонь, з маёнткамі Мухаедавічы і Белая Сарока) і межаваў з Мазырскай, Брагінскай і Любецкай валасцямі. У выніку Люблінскай уніі 1569 К.п. далучаны да Польскага каралеўства, прычым у яго складзе апынуліся Брагінская і Любецкая вол., якія ў размежаванні 1566 прыгадваюцца як знешнія адносна яго. Але дакладнае размежаванне паміж К.п. і Мазырскім пав. ВКЛ, неабходнасць якога адзначалі соймы Рэчы Паспалітай 1589 і 1598, праведзена не было. У пач. 17 ст. паўн. частка К.п., якая ўключала ускраек сучаснай Беларусі, адышла да Оўруцкага пав.

*Літ.*: Крикун Н. Административно-территориальное устройство Правобережной Украины в XV—XVIII вв. Киев, 1992.

***Вячаслаў Насевіч.***





**Кіеўскі Псалтыр**. Старонкі з гербам Я.Езафовіча (пач. 16 ст.) і мініяцюрамі канца 14 ст.

**Кіеўскі Псалтыр**, помнік украінскага кніжнага мастацтва 14 ст. Пергамінавы кодэкс, які змяшчае Псалтыр, а таксама 10 хвалебных песень і малітваў з інш. кніг Бібліі. Напісаны на 228 аркушах вял. уставам (пазней 4 аркушы заменены на папяровыя, дададзены 1 пергамінавы аркуш, зроблены прыпіскі). Вял. літары і асобныя часткі тэксту напісаны кінавар'ю, а загалоўкі — золатам. Упрыгожаны загалоўнай сюжэтна-арнаментальнай застаўкай з выявай дэісуса і 302 сюжэтнымі, партрэтнымі і сімвалічнымі мініяцюрамі ў неавізантыйскім стылі, размешчанымі на спец. шырокіх палях. Мініяцюры адметныя філіграннным мадэліраваннем маленькіх фігурак людзей, якія дадзены ў падкрэслена падоўжаных прапорцыях, майстэрскай прамалёўкай дробных дэталей. Пратографам для К.П. паслужыў грэчаскі рукапіс 11—12 ст. У пасляслоўі кнігі адзначана, што яе скончыў пісаць у 6905 «ад стварэння свету» (1397) протадыякан Спірыдоній у Кіеве; імёны 2 мастакоў-мініяцюрыстаў не пазначаны. Заказчыкам К.П. быў смаленскі епіскап Міхаіл, які, відаць, і прывёз пратограф К.П. з Канстанцінопаля. У 1518 новы ўладальнік рукапісу падскарбі земскі ВКЛ Ян (Абрам) Езафовіч перадаў яго Віленскай Мікольскай (Перанясенскай) царкве (на 1-й старонцы кнігі была зроблена мініяцюра з яго гербам «Ляліва»). У 1-й пал. 19 ст. рукапісам валодаў М.К.Баброўскі. Зберагаецца ў Рас. нац. б-цы ў Пецярбургу. Фотавыданне К.П. ажыццёўлена ў 1978.

*Літ.*: Вздорнов Г. Исследование о Киевской Псалтыри. М., 1978; Запаско Я.П Пам'ятки книжкового мистецтва: Українська рукописна книга. Львів, 1995.

**Кімбараўскія цыстэрцыянскія кляштары**, мужчынскі і жаночы кляштары ордэна цыстэрцыянцаў у в. Кімбараўка каля г. Мазыр (цяпер у межах горада). Мужчынскі кляштар знаходзіўся ва ўрочышчы Цёмная Даліна (лац. Vallis Umbrosa). Засн. каля 1711 мясцовай шляхтай (падчашы кіеўскі Зыгмунт Шукшта, Богушы і інш.), у 1713 Аўгуст II падараваў яму 30 валок зямлі, у 1742 Аўгуст III — 20 валок. Значнымі фундатарамі кляштара былі паны Аскеркі: мазырскі маршалак Антоній (1716), яго сыны Рафал Алойзы (1740) і Казімір Мацей (1780, падараваў 100 валок). Мураваны касцёл Святога Крыжа асвячоны ў 1775. У цяперашні час у моцна перарobленым выглядзе выкарыстоўваецца як вытворчае памяшканне. Пры кляштары існавалі школа, бібліятэка. Жаночы кляштар знаходзіўся ва ўрочышчы Анёльская Даліна (лац. Vallis Angelica). Заснаваны, напэўна, па ініцыятыве прыёра мужчынскага кляштара цыстэрцыянцаў Бенядзікта Ружанскага. У 1729 староста мерацкі Казімір Сапега ахвяраваў на гэта 30 тыс. злотых, пасля падкаморы дорпацкі Бандынэлі запісаў каля 30 тыс. злотых, падчашы кіеўскі Зыгмунт Шукшта — 30 тыс. злотых, і інш. У 1744 у кляштар прыехалі першыя манашкі. Быў збудаваны мураваны касцёл Міхаіла Архангела. Гэта бесслупавы зальны храм, перакрыты крыжастымі скляпеннямі. Да асн. аб'ёму прымыкае роўная па шырыні 3-гранная апсіда, з паўн. боку па ўсёй яго даўжыні да касцёла прымыкае нешырокая прыбудова з арыгінальнымі валютападобнымі сценкамі. Паўн. і паўд. сцены на 2-м ярусе праразаюць па 4 паўкруглыя ак-



ны. Асн. эстэтычную нагрузку нясе выразны бязвежавы фасад, падзелены шырокімі пілястрамі на 3 вертыкальныя часткі. Бакавыя часткі ўпрыгожваюць нішы-табернакулы з ракавінападобнымі конхамі. Уваходны прытвор мае гранёную форму і нагадвае алтар. У пач. 19 ст. касцёл быў размаляваны. Пры кляштары дзейнічала школа для дзяўчат. Манастыр дзейнічаў да 1885, касцёл — да 1888. У канцы 19 ст. храм перароблены пад правасл. царкву, пасля рэстаўрацыі ў 1990-я г. дзейнічае як касцёл. Часткова захаваўся жылы корпус.

*Літ.*: Gozdawa [Giżycki] M. Kimbarówka // Kwartalnik litewski. 1910. T. 4.

**кінжал** (ад араб. ханджар), клінковая халодная зброя блізкага бою, прызначаная для колючага ўдару. У Еўропе, у т.л. ў ВКЛ, папярэднікам К. быў вял. баявы нож. У 15 ст. тут былі папулярны татарскія нажы. К. як арыгінальны від зброі атрымаў распаўсюджанне ў часы сярэдневякоўя, калі набыў простую форму 1-, 2-лязовага або штыкападобнага клінка. У ВКЛ называўся пуйнал (ад італьян. pugnale). 1- і 2-лязовы К. 14 ст. знойдзены ў каменным могільніку Вензаўшчына і ў Лідзе. У 16 ст. з'явіўся фехтавальны К. для левай рукі (дага), з вузкім клінком, кароткай рукаяццю з трохвугольнай гардай і падоўжанай крыжавінай; выкарыстоўваўся ў спалучэнні са шпагай. Падобныя камплекты былі і ў арсеналах феадалаў ВКЛ. З 17 ст. ў ВКЛ К. паступова траціць баявое значэнне і выкарыстоўваецца ў асн. як парадная і дэкаратыўная зброя.

*Літ.*: Bersohn M. Dawna zbrojownia Książąt Radziwiłłów w Nieświeżu. Warszawa, 1904; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słow o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. 2 wyd. Warszawa, 1989; Бохан Ю. Зброя Вялікага княства Літоўскага, 1385—1576. Мн., 2003.

***Юрась Бохан.***

**Кіпа** (Kipa) Эміль (17.3.1886, Львоў—5.1.1958), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1947), праф. (1954). Скончыў Львоўскі ун-т (1910). У 1919—39 і з 1945 супрацоўнік Мін-ва замежных спраў Польшчы, выкладаў у Школе палітычных навук, Гал. гандлёвай школе, Вольным ун-це ў Варшаве. У час нямецкай акупацыі ў Варшаўскай гар. управе, быў звязаны з Арміяй Краёвай. Пасля вайны выкладаў у Пазнанскім і Варшаўскім ун-тах. Вывучаў гісторыю Рэчы Паспалітай, Польшчы перыяду асветніцтва і напалеонаўскіх войнаў, масонства, дзейнасць Я.Ясінскага, Т.Касцюшкі, Г.Калантая. Удзельнічаў у выданні «Актаў паўстання Касцюшкі», мемуараў Ю. Нямцэвіча.

*Тв.*: Fryderyk Gentz a Polska, 1794—1831. Kraków; Warszawa, 1911; Ks. Hugo Kołłątaj. Lwów, 1912; Studia i szkice historyczne. Wrocław; Warszawa, 1959 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**Кіпрыян** (каля 1330, Балгарыя — 16.9.1406), праваслаўны мітрапаліт кіеўскі (1375—80 і з 1389) і Малой Русі і Літвы (1380—89), пісьменнік. З паўд.-слав. роду Цамблакаў. Рана прыняў манаства, дзейнічаў на Афоне. З 1364 кялейнік канстанцінопальскага патрыярха Філафея Какіна, які ў 1373 адправіў К. ў ВКЛ і Цвер для ўрэгулявання канфлікту з мітрапалітам Аляксеем з-за прамаскоўскай палітыкі апошняга. К. здолеў прыцягнуць да сябе правасл. колы ВКЛ (у прыватнасці, па яго ініцыятыве былі кананізаваны *тры віленскія мучанікі*), і ў снеж. 1375, паводле жадання Альгерда і інш. князёў, быў пасвячоны канстанцінопальскім патрыярхам у мітрапаліты з кафедрай у Кіеве, каб потым узначаліў усю (юрыдычна адзіную) мітраполію. Гэта выклікала абвастрэнне адносін з маскоўскім вял. князем Дзмітрыем Іванавічам (Данскім). Пасля смерці Аляксея спрабаваў прыбыць у Маскву (чэрв. 1378), але быў гвалтоўна высланы і вярнуўся ў Кіеў; па патрабаванні (і пад уплывам подкупу) маскоўскіх паслоў новы патрыярх Ніл змяніў тытул К. і пазбавіў яго права спадчыны на мітраполію. Некаторае паляпшэнне адносін з Масквой (у сувязі з татарскай пагрозай) і 1-е замацаванне там К. было вельмі нядоўгім (1381—82). Толькі пасля ўступлення на прастол сына Дзмітрыя Васіля I (май 1389) К. злучыў пад сваёй духоўнай уладай усе ўсходнеслав. землі. Ён актыўна і мэтанакіравана праводзіў у ВКЛ палітыку аднаўлення і распаўсюджвання правасл. царк. арганізацыі і царк.-слав. кніжнай культуры. Асаблівая ўвага да Зах. і Паўд. Русі засталася ў К. і пасля 1389, калі ён пераважна жыў у Маскве; гэтаму спрыяла палітычная сітуацыя 1390-х г. — перыяду пэўнага падпарадкавання Масквы задачам і інтарэсам вял. князя Вітаўта. На працягу 1394—1405 К. неаднаразова наведваў Смаленск, Кіеў, Вільню, Луцк, вёў з Вітаўтам і Ягайлам тайныя перагаворы пра унію з каталіцкай царквой (1396). Памёр у Маскве. К. — аўтар многіх грамат, лістоў і пасланняў (у т.л. да Сергія Раданежскага), службы мітрапаліту Пятру (з новай рэдакцыяй яго жыція), рэдакцыі летапіснай «Аповесці пра Міцяя» (канкурэнта К. ў барацьбе за маскоўскую кафедру), шэрагу літургічных твораў (канонаў, малітваў, чыноў) і перакладаў з грэчаскай мовы айцоў царквы, багаслужэбных кніг і інш. Кананізаваны Рус. правасл. царквой у 1472.

*Літ.*: Мансветов И.Д. Митрополит Киприан в его литургической деятельности: Ист.-литургическое исслед. М., 1882; Дончева-Панайотова Н. Киприан — старобългарски и староруски книжовник. София, 1981; Я е ж. Словото на Григорий Цамблак за митрополит Киприан. Велико Търново, 1995; Словарь книжников и книжности Древней Руси. Вып. 2, ч. 1. Л., 1988; Поляков Ф.Б. Взаимоотношения константинопольского патриарха с Киевской митрополией в «Житии Петра, архиепископа киевского» митрополита Киприана // Byzantinoslavica. 1990. T. 51, fasc. 1; Егоров А.А. Митрополит Киприан и его время: к вопросу о политическом исихазме // Отечественная философская мысль XI—XVII. Киев, 1991; Седова Р.А. Служба митрополиту Петру // Тр. Отдела древнерусской литературы. СПб., 1992. Т. 45; Кенанов Д. Киприан и творческото дело на патриарх Евтимий и Климент Охридски // Там жа. 1993. Т. 48; Глухов А.Г. «Муж учителен и вельми книжен»: Митрополит Киевский и всея Руси Киприан (ок. 1336—1406) // Бибилография. 1996. № 2; Ignatiew C. Žitie Petra des Metropoliten Kiprian: Eine Untersuchung zu Form und Stil russisches Heiligenleben. Wiesbaden, 1976; Прохоров Г.М. Русь и Византия в эпоху Куликовской битвы. 2 изд. [Т. 1—2]. СПб., 2000; Ильина Т. Митрополит Киприан и тверский епископ Арсений: исторические и творческие связи // Търновска книжовна школа. Велико Търново, 2002. Т. 7.

***Валерый Антонаў.***

**Кіпрыяновіч** Рыгор Якаўлевіч (1851, мяст. Крайск Вілейскага пав. Віленскай губ.—пасля 1915), гісторык царквы, педагог. Магістр багаслоўя (1873). З сям'і святара. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію (1869). Вык-

ладаў латынь, гісторыю, педагогіку ў Літ. духоўнай семінарыі, Віленскай гімназіі і Віленскім жаночым вучылішчы духоўнага ведамства. Друкаваўся пераважна ў газ. «Литовские епархиальные ведомости».

*Тв.*: Очерк жизни и деятельности Иосифа Семашки. Вильна, 1894; Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве, с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1895 (2 изд. 1899); Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и возсоединение западнорусских униатов с православною церковью в 1839 г. Вильна, 1897; Архиепископ полоцкий и витебский Иосафат Кунцевич, западнорусский мученик за унию с Римом: (По новым научным данным). Вильна, 1912.

*Лит.*: Чарапіца В.М. Са скарбніцы кніжных паліц. Мн., 1994.

***Валерый Чарапіца.***

**Кіраўск** (цяпер гар.пасёлак, цэнтр Кіраўскага р-на, Рэспубліка Беларусь). У 16 ст. побач з сучасным К. існавала велікакняжацкае сяло Качэрычы (у 1560 — 30 двароў), пазней уваходзіла ў аднайменны маёнтак. К. узнік у 20 ст.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Кіраўскага р-на. Мн., 1997.

**Кірдзеі**, Кірдзеі-Радзівалоўскія, шляхецкі род герба «Бэлты». Родапачынальнік Кірдзей жыў на мяжы 16—17 ст., валодаў маёнткам Радзівонавічы ў Гарадзенскім пав. (адсюль падвойнае прозвішча яго нашчадкаў К.-Р.), у 1612 атрымаў маёнтак Пелеўцы ў Лідскім пав. Быў жанаты з Соф'яй Валовіч, якая трымала Варварынскі манастыр у Пінску, меў сыноў Якуба, Яна, Уладзіслава, Героніма і Яўстафія. Найб. вядомыя:

Уладзіслаў (?—24.11.1647), сын Кірдзея. Каралеўскі дваранін, спіжарны і карэнны ў 1633. Па пратэкцыі сваяка вял. падскарбія Я.Валовіча паступіў служыць у скарб ВКЛ. Працаваў таксама ў канцылярыі ВКЛ як каралеўскі сакратар, пасля рэгент меншай канцылярыі ВКЛ (1638—43). Гарадзенскі падстараста ў 1626—34, падстолі з 1632, пісар земскі з 1638, маршалак з 1644. У 1634 праводзіў люстрацыю каралеўскіх маёнткаў. У 1639 абраны маршалкам сойма Рэчы Паспалітай.

Яўстафій (?—1661), сын Кірдзея. Гарадзенскі пісар земскі ў 1626, падстолі да 1632, харужы да 1649, кашталян смаленскі ў 1649—53 і жамойцкі з 1653.

Ян Казімір (?—8.4.1685), сын Яўстафія. Каралеўскі дваранін, гарадзенскі харужы з 1649, маршалак з 1669, лоўчы ВКЛ у 1683—84, кашталян троцкі з 1684; староста перавольскі і філіпаўскі. У маладосці ўдзельнічаў у войнах з укр. казакамі і шведамі. У 1660 узначальваў гарадзенскае паспалітае рушэнне пры абароне горада ад рас. войск. Пасол на соймы 1648 (удзельнічаў у абранні на трон Яна II Казіміра), 1670 (яго маршалак), 1672, 1674 (удзельнічаў у абранні Яна III Сабескага), 1683; дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1677.

***Валерый Пазднякоў.***

**Кіркор** Адам Ганоры Карлавіч (21.1.1818, в. Слівіна Клімавіцкага пав.—23.11.1886), беларускі і польскі гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, грамадскі дзеяч. Чл.-кар. Імператарскага Рус. археал. таварыства (1856), чл. Імператарскага Рус. геагр. т-ва (1857), АН у Кракаве (1873). З небагатага бел. шляхецкага роду. Вучыўся ў Магілёўскай (да 1834) і Віленскай (да 1838) гімназіях. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1842. Выдаваў у Вільні навукова-літ. альманахі «Радэгаст» (1843), «Разумовыя дзённікі» (т. 1—3, 1845—46), «Віленскі альманах» (1859, 1862), час. «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік», т. 1—6, 1857—58), у якім змяшчаў свае працы па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі Беларусі і Літвы. З 1849 чл. Віленскага статыстычнага к-та, рэдактар (1850—54) «Памятнай кніжкі Віленскай губерні» (1850—54). З 1855 чл. Віленскай археал. камісіі, хавальнік Віленскага музея старажытнасцей, якому ахвяраваў сваю археал.-этнаграфічную калекцыю. У 1850—60-я г. кіраўнік віленскага гуртка бел., польскіх і літ. літаратараў і дзеячаў культуры. У 1859—65 рэдактар газ. «Виленский вестник». З 1859 уладальнік друкарні ў Вільні, дзе выдаваліся танныя кнігі на польскай, літ. і рус. мовах (планаваліся і на бел.). У 1868—71 адзін з выдаўцоў газ. «Новое время» (Пецярбург). З 1872 у Кракаве, чытаў лекцыі па гісторыі слав. літаратур, у т.л. беларускай. Археал., краязнаўчыя, этнагр. даследаванні праводзіў у Віленскай і Мінскай губ. (Ашмянскі, Барысаўскі, Вілейскі, Віленскі, Лідскі, Мінскі, Навагрудскі, Свянцянскі паветы), дзе даследаваў каля 1000 курганоў, запісваў узоры вусна-паэт. творчасці (песні, прыказкі, прымаўкі, паданні), абрады, звычаі, гульні, танцы, нар. святы. У працах «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі» (1839), «Аб этнаграфічнай мяжы літоўскай і славянскай народнасцей у Літве» (1857), «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—59), у працах «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе» («Жывапісная Расія», т. 3, ч. 1—2, 1882) адзначаў багацце, самабытнасць духоўнай і матэрыяльнай культуры бел. народа, падкрэсліваў гіст. і этнаграфічную своеасаблівасць беларусаў, іх мовы, пісьмовых традыцый, даў этнічную і сац.-быт. характарыстыку тыпаў беларусаў. Аўтар «Нарысаў сучаснай рускай літаратуры» (1873), кнігі «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874), дзе выказаў ідэю пра бел. культуру як цэласную шматвяковую гіст. з'яву ў адзінстве пісьмовых і вусна-паэтычных традыцый. Аўтар успамінаў.

*Літ.*: Янчук Н. А.К.Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; Зямкевіч Р. Адам Ганоры Кіркор: (Біягр.-бібліягр. нарыс у 25-летнюю гадавіну смерці). Вільня, 1911.

***Дзмітрый Караў.***

**кірмаш**, форма правядзення гандлю ў выглядзе перыядычных з'ездаў гандляроў у пэўнай мясцовасці на працягу вызначанага тэрміну. Вядомы ў Еўропе з 10 ст. У ВКЛ шырока распаўсюдзіліся з канца 15 ст. Дазвол на правядзенне К. («ярмаркі») даваў вял. князь літоўскі, што афармлялася асобным прывілеем. На Украіне, дзе часта гарады і мястэчкі былі падзелены паміж рознымі ўласнікамі, кожная частка гарадскога паселішча мела свае К. На Беларусі, Падляшшы, у Літве гарады і мястэчкі, у якіх было некалькі ўласнікаў, мелі агульныя гандлёвыя дні (у гэтым выпадку ўласнікі дзялілі прыбытак ад гандлю). Звычайна К. адбываліся ці пачыналіся ў дні рэлігійных свят (на тэр. Беларусі ў пераважнай большасці паводле юліянскага календара). Працягваліся ад 1 дня да 2—4 тыдняў. Праводзіліся на цэнтр. плошчы населенага пункта — на рынку, пры царкве, касцёле. У К. мелі права прымаць удзел людзі любога матэрыяльнага і сац. стану: шляхціцы, замежныя і айчынныя купцы,

інш. гандляры, рамеснікі, мяшчане, сяляне, яўрэі, цыгане і інш. Гандляры, якія ехалі на К. ці з яго, вызваляліся ад платы пэўных мыт і пошлін. Унутраны распарадак на К. вызначаўся звычаямі і пастановамі мясц. органаў кіравання, гандлёвымі статутамі. За парадкам на К. сачылі мясц. органы ўлады (панская адміністрацыя, органы гар. самакіравання). Каб пакрыць расходы па арганізацыі К. і атрымаць прыбытак, збіраўся спец. падатак — ярмаркавае і інш. гандлёвыя паборы: важчае, мернае і г.д. Фармальна на К. маглі ажыццяўляцца любыя гандлёвыя аперацыі адносна ўсіх відаў тавараў (оптавы і рознічны гандаль, гандаль за наяўныя грошы і ў крэдыт, абмен, залог і г.д.). Найб. пашыраным на К. быў гандаль збожжам, прадуктамі харчавання (мясам, рыбай, спецыямі, соллю, мёдам і інш.), прамысловымі таварамі (тканінамі, разнастайнымі металічнымі, драўлянымі, ганчарнымі вырабамі, прадметамі раскошы і інш.), жывёлай (коньмі, валамі). Існавала пэўная спецыялізацыя асобных К.

Першыя К. ў ВКЛ дакументальна зафіксаваны прывілеямі Вільні (1441), Гародні (1496) і Полацку (1498). У 16—17 ст. права праводзіць К. атрымала большасць гарадоў і мястэчак ВКЛ. Найбольш інтэнсіўна прывілеі на К. выдаваліся ў 16—сярэдзіне 17 ст., у 1710—80-я гг. У 18 ст. самымі значнымі былі кірмашы ў Зэльве (25 ліп.—25 жн.), Высокім, Бешанковічах (пачынаўся ў дзень апосталаў Пятра і Паўла, працягваўся 4 тыдні), Даўгінаве, Міры, Нясвіжы, Жлобіне і інш. К. садзейнічалі эканам. развіццю як мясцовасцей, дзе яны праходзілі, так і ўсёй краіны ў цэлым.

***Аляксандр Доўнар.***

**кірмашовае свята**, святочныя гульні ў час *кірмашу* ў гарадах ВКЛ. Бярэ пачатак ад розных урачыстасцей у час стараж. гандлёвых збораў, традыцыйным стала з афармленнем незалежнага статуса гарадоў. У прывілеях на магдэбургскае права кірмашы звычайна прымяркоўвалі да хрысціянскіх свят. Традыцыйна «афіцыйнае» свята адбывалася да абедні, а пасля пачынаўся кірмаш. З 16 ст. гэта стала нормай звычаёвага права. Свята пачыналася разам з гандлем на рыначнай плошчы. Менавіта таму слова «кірмаш» у бел. мове, як і ў заходнееўрапейскіх, абазначае не толькі рынак, але і свята, вячоркі. К.с. складалася з т.зв. кірмашовага тэатра (выступленні скамарохаў і музыкаў, батлейка, інтэрмедыі), цэхавых кануна-братчын, гульняў, варажбы і г.д. Апрача мясцовых гараджан у К.с. ўдзельнічалі замежныя (польскія, нямецкія, рас. і інш.) купцы, сяляне, засцянковая шляхта, цыганы, яўрэі, дробныя гандляры (шкоты), жабракі. Асн. ўдзельнікамі выступленняў былі скамарохі: мядзведнікі, музыкі (скрыпнікі, дуднікі), штукары (акрабаты і фокуснікі, казачнікі, камедыянты, лялечнікі). На К.с. з'язджаліся «сляпцы» — лірнікі, якія выконвалі рэліг., гіст. і жартоўныя песні, школа падрыхтоўкі якіх існавала каля Турава; студэнты-вандроўнікі са сцэнкамі-інтэрмедыямі, разлічанымі на 2—3 персанажы. Зрэдку адбываліся паказы гар. школьнага тэатра. У гэтым выпадку ў Беларусі спектакль ішоў на нар., зразумелай усім бел. мове. Важную ролю ў К.с. займала карчма — не толькі месца піцця і заключэння гандлёвых дагавораў, але і грамадскага адпачынку з музыкамі, скамарохамі, спевамі і танцамі, батлейкай, гульнёй у карты. Да К.с. гараджане мелі права «безмытна кгорелки и меду варити». К.с. стварала ілюзію ўсеагульнай роўнасці, на хвіліну прыўносіла адчуванне радасці быцця, зямнога раю, жыцця «адвечнага народнага цела».

*Літ.*: Даркевич В.П. Народная культура средневековья: (Светская праздничная жизнь в искусстве IX—XVI вв.). М., 1988; Народны тэатр. Мн., 1983; Бахтин М.М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. 2 изд. М., 1990; Котлярчук А.С. Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII века: официальные церемонии и крестьянская обрядность. СПб., 2001.

***Андрэй Катлярчук.***

**Кірхгольмская бітва 1605.** Адбылася ў час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* каля в. Кірхгольм (сучасны г. Саласпілс, Латвія). У жн. 1605, калі войска ВКЛ на чале з вял. гетманам Я.К.Хадкевічам знаходзілася пад Дорпатам, шведскі кароль Карл IX з арміяй (12 тыс. чал.) падступіў да Рыгі. Горад не мог вытрымаць аблогі, таму Хадкевіч рушыў на дапамогу. Харугвы ВКЛ спыніліся лагерам за 13 км ад Рыгі каля в. Кірхгольм. На досвітку 27 вер. да іх падышла армія Карла IX (6840 чал. пяхоты, 450 коннікаў і 11 гармат). Хадкевіч меў 4350 чал., з іх 3310 коннікаў. Пасля доўгага процістаяння гетман ажыццявіў манеўр: загадаў лёгкай конніцы, якая была наперадзе, адступаць, каб вымусіць шведаў пайсці ў наступленне і пакінуць зручныя пазіцыі. Карл IX паверыў у адыход непрыяцеля і загадаў наступаць, але, калі яго пяхота з гарматамі спусцілася з узвышша, па ёй з флангаў ударылі



**Кірхгольмская бітва 1605**. Карціна з замка Сасенаж. Францыя.

рэйтары Хадкевіча. У выніку шведскае войска страціла ранейшую самкнутасць і стала безабароннае перад конніцай ВКЛ. Гусары В.Войны атакавалі корпус пяхоты, а конніца Т. Дамбровы і полк Я.П.Сапегі (гусары і пяцігорцы) — рэйтараў. Шведы пачалі ўцякаць. У пагоню кінуліся татарскія харугвы, якія вартавалі абоз Хадкевіча. Шведы страцілі каля 6 тыс. забітымі, усе гарматы і 60 харугваў. Быў паранены і Карл IX. У войску ВКЛ загінула каля 100 чал. і некалькі сотняў атрымалі раны. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 109.

*Літ.*: Wisner H. Kircholm 1605. Warszawa, 1987.

***Генадзь Сагановіч.***

**кісцень**, від абуховай зброі. Ударная частка К. ў выглядзе гіркі мацавалася да рукаяці пры дапамозе рэменя, вяроўкі ці ланцуга. Рукаяць магла адсутнічаць, і рэмень ці вяроўка проста намотваліся на руку. К. з'явіліся ва Усх. Еўропе ў раннім сярэдневякоўі і ўжываліся ў ВКЛ яшчэ ў 15—16 ст. К. з рукаяццю зафіксаваны на адной з мініяцюр Радзівілаўскага летапісу. Касцяная шарападобная гірка К. 13—14 ст. дыяметрам 4 см з вушкам знойдзена ў Гарадзенскім замку. Бронзавыя гіркі з 5 вял. і 8 маленькімі шыпамі знойдзены на Украіне, іх можна датаваць 2-й пал. 14—16 ст. 1-й пал. 16 ст. датуецца блізкая па форме жалезная гірка К., знойдзеная на помніку Лучын-1 на Віцебшчыне. У зборах Нац. музея Літвы зберагаюцца К. з гіркамі ў выглядзе шыпастага шара альбо выцягнутай пірамідкі, злучаных з рукаяццю пры дапамозе ланцуга. Гэтыя К. датаваны 14—15 ст., аднак іх сувязь з землямі ВКЛ не высветлена.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Л., 1966; Mažeikienė O. XIV—XIX a. gimklai: Katalogas. Vilnius, 1979; Клімаў М.В. Зброя, ваенны рыштунак вершніка і каня з помніка Лучна-1 // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2001. Вып. 3; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 153—154.

***Юрась Бохан.***

**кітабы** (араб. кітаб — кніга), у татараў ВКЛ спецыяльныя рукапісныя зборнікі, у якіх змяшчаліся паданні пра прарока Мухамада, апісанні абрадаў, рытуалаў мусульман, маральна-павучальныя апавяданні і палемічныя творы. Гал. функцыя К., у адрозненне ад інш. рэлігійных кніг (*Караны, тэфсіры, хамаілы, тэджвіды*, суфры), была пазнавальная, яны былі энцыклапедыямі рэлігійных ведаў і даўніх традыцый. У дні мусульманскіх святаў татары збіраліся разам, каб паслухаць старыя паданні з К. Сюды ўваходзіла вельмі папулярнае ў мусульманскім свеце паданне «Мерадж» («лесвіца», «пад'ём»), звязанае з сюжэтамі стараж. міфаў пра падарожжа ў краіну памерлых. Яно распавядае, як Мухамад паляцеў на крылатым кані на нябёсы, наведаў мусульманскі рай і пекла. Вуснае распаўсюджанне садзейнічала таму, што паданне мела некалькі версій, спісы гэтай легенды сустракаюцца ў многіх К. Не кожная сям'я бел. татараў магла мець такую дарагую кнігу, як К., яны былі здабыткам больш заможных татараў, а часцей за ўсё захоўваліся ў мячэцях. Перад 1-й сусв. вайной у кожным татарскім паселішчы было некалькі такіх кніг. У час войнаў шмат К. згубілася, і ў пасляваенны перыяд яны сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. На сённяшні дзень зарэгістраваны 28 К., 14 з іх захоўваюцца ў дзярж. калекцыях розных краін свету, 14 — у прыватных. Самы стары К. (1645) зберагаецца ў б-цы Казанскага ун-та. К. захоўваюцца таксама ў калекцыях Нац. музея Літвы, б-ках АН Літвы, Вільнюскага і С.-Пецярбургскага ун-таў, Брытанскай б-цы ў Лондане. У Беларусі К. захоўваюцца ў Нац. б-цы Беларусі (1 экз.), Цэнтр. навук. б-цы НАН Беларусі (1 экз.) і ў прыватных калекцыях.

Першаадкрывальнікам пісьменства бел. татараў лічыцца А.*Мухлінскі* («Исследование о происхождении и состоянии литовских татар», С.-Пецярбург, 1857). У 1918 І.Луцкевіч паведаміў пра К., знойдзены ім у с. Сорак Татараў каля Вільні. Публікацыя зацікавіла М.Гарэцкага, які выдаў старонку з гэтага К. фотакапічным спосабам. Гэты рукапіс з моўнага боку даследаваны Я.Ф.*Карскім*, пра кнігу пісаў І.Ю.Крачкоўскі. З'явіліся паведамленні пра рукапісныя кнігі бел. татараў А.Самайловіча, В.Вольскага, Я.Шынкевіча і інш. У 1963 грунтоўную працу пра рукапісы бел. татараў апублікаваў А.К.Антановіч. Поўнасцю адзін з К. у перакладзе на польскую мову апублікавалі ў 2000 польскія навукоўцы Г.Янкоўскі і Ч.Лапіч (напісаны пасля 1782, захоўваўся ў сям'і Мількамановічаў у Скідзелі). Літоўская даследчыца Г.Мішкінене апублікавала транслітарацыю і пераклад на рус. і літ. мовы тэкстаў з 3 самых ста-



**Кітаб**. 2-я пал. 19 ст. Нацыянальная бібліятэка Беларусі.



Да арт. **Кітабы**. Паўкітаб. Апошняя чвэрць 18 ст. Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі.

рых рукапісаў бел. татараў, сярод іх 2 К. Мову К. даследуюць бел. мовазнаўцы В.Несцяровіч і М.Тарэлка. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 64, 235.

*Літ.*: Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў: Каталог выставы. (Да 600-годдзя татарскага асадніцтва на Беларусі). Мн., 1997; Drozd A., Dziekan M.M., Majda T. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 2000; Jankowski H., Łapicz C. Klucz do raju: Księga Tatarow litewsko-polskich z XVIII w. Warszawa, 2000; Miškinienė G. Seniausi lietuvos totorių rankraščiai: (Grafika. Transliteracija. Vertimas. Tekstų struktūra ir turinys). Vilnus, 2001; Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX стагоддзя з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: Каталог / Укладальнікі І.А.Ганчарова, А.І.Цітавец, М.У.Тарэлка. Мн., 2003; Несцяровіч В. Старажытныя рукапісы беларускіх татар: (Графіка. Транслітарацыя. Агульная характарыстыка мовы. Фразеалогія). Віцебск, 2003; Тарэлка М. Да пытання аб цытатах з Бібліі С.Буднага і Брэсцкай Бібліі ў рукапісе Р97 з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі // Гісторыя выдавецкай дзейнасці ў Польшчы і Беларусі ў XVI—XX ст. Мн., 2003; Мишкинене Г., Намавичюте С., Покровская Е. Каталог арабскоалфавитных рукописей. Вильнюс, 2005.

***Алена Цітавец.***

**«Кітаўрас»**, «Гіпацэнтаўр», прыватнаўласніцкі герб, якім на Беларусі і ў Літве карысталася больш за 30



Герб **«Кітаўрас»**.

родаў, у т.л. Дуброўніцкія, Гедройцы, Гальшанскія, Гарнастаі, Свірскія, Стравінскія, Сясіцкія, Яманты. На сярэбраным полі выява сярэбранага кентаўра, які страляе з лука, замест хваста ў яго змяя. Клейнод шляхецкага варыянта герба — над прылбіцай з каронай 3 страусавыя пёры. Вобраз кентаўра на герб трапіў з папулярных на Русі перакладных грэчаскіх «Аповесці аб Кітаўрасе» (аднак у кентаўра там хвост скарпіёна) і «Александрыі», дзе адзначана, што кентаўры служылі лучнікамі ў войску Аляксандра Македонскага. Як геральдычная фігура кентаўр сустракаецца на рус. пячатках і манетах 14—16 ст. У ВКЛ выявы кентаўра вядомы на пячатках князя С.І.Гальшанскага пры дакументах 1388, 1431 (кентаўр мае шчыт і меч) і 1433 (кентаўр у кароне, рукі ў бокі). З гэтага часу выява кентаўра ператварылася ў герб «К.» спачатку роду Гальшанскіх, потым і іншых. У 16 ст. ўзнікла легенда аб паходжанні герба «К.», адлюстраваная ў бел.-літоўскіх летапісах. Паводле легенды, герб належаў Даўспрунку, які ў часы рымскага імператара Нерона разам з Палемонам і інш. перасяліўся з Італіі ў Літву. Нашчадкамі Даўспрунка лічыліся вял. князь ВКЛ Трайдзень і яго нашчадкі, т.зв. дынастыя Кітаўрасаў, ад якой выводзілі свой род Гедройцы і інш. Паводле летапісаў, князь Нарымонт з роду Кітаўрасаў, калі быў вял. князем ВКЛ, адмовіўся ад уласнага герба «К.» і прыняў «Пагоню», якая стала гербам дзяржавы.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 130—169; Чернецов А.В. Об изображениях кентавра, обнажающего меч // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. 1981. Вып. 166.

**Кіткаўскас** (Kitkauskas) Казіс Напалеонас (н. 1.5.1931, в. Антадурай Уцянскага пав.), літоўскі гісторык архітэктуры. Канд. архітэктуры (1980). У 1942—47 вучыўся ва Уцянскай гімназіі. У 1947 арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў, у 1954 рэабілітаваны. У 1955—60 вучыўся ў Каўнаскім політэхнічным ін-це, у 1972—77 — у аспірантуры Вільнюскага інжынерна-будаўнічага ін-та. Працаваў інжынерам, спецыялістам ва ўстановах па рэстаўрацыі помнікаў, з 1992 старшы навук. супрацоўнік, кіраўнік аддзела архітэктурных даследаванняў Навук. цэнтра «Літоўскія замкі». З 2003 навук. кіраўнік работ па аднаўленні велікакняжацкага палаца ў Вільнюсе. Старшыня Т-ва Крысціёнаса Данелайціса, чл. Нац. літ. к-та Міжнар. савета па помніках і гіст. мясцінах (ICOMOS), Саюза рэстаўратараў Літвы, Віленскага аддзялення Каталіцкай АН Літвы. Адзін з аўтараў кніг «Гісторыя архітэктуры Літвы» («Lietuvos architektūros istorija», т. 1, Вільнюс,

1987), «Збор помнікаў гісторыі і культуры ЛітССР» («Lietuvos TSR istorijos ir kultūros paminklai sąvadas», т. 1, Вільнюс, 1988), «Палац Вільнюскага Ніжняга замка» («Vilniaus Žemutinės pilies rūmai», т. 1—5, Вільнюс, 1989—2003).

*Тв.*: Вильнюсский кафедральный собор. Вильнюс, 1977; Vilniaus pilys: Statyba ir architektūra. Vilnius, 1989; Vilniaus arkikatedros požemiai. Vilnius, 1994.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Кітовіч** (Kitowicz) Енджэй (1.12.1728—3.4.1804), польскі гісторык, мемуарыст. Служыў пры магнацкіх дварах. У 1768 змагаўся на баку Барскай канфедэрацыі. У 1771 паступіў у семінарыю ордэна місіянераў, стаў капланам і атрымаў прыход у Рэчыцы каля Равы Мазавецкай. З 1793 канонік калішскі. Аўтар «Успамінаў», якія ў форме дзённіка ахопліваюць падзеі 1743—98, а таксама першай па гісторыі побыту ў Рэчы Паспалітай працы «Апісанне звычаяў падчас панавання Аўгуста III», дзе шырока пададзены з'явы духоўнай і матэрыяльнай культуры (жыллё, адзенне, транспартныя сродкі, вераванні, школа, выхаванне, сям'я, забавы).

*Тв.*: Pamiętniki, czyli Historia polska. Warszawa, 1971; Opis obyczajów za panowania Augusta III. 3 wyd. Warszawa, 2003.

*Літ.*: Matuszewska P. Proza Jędrzeja Kitowicza. Wrocław, 1965; Barycz H. Szlakami dziejopisarstwa staropolskiego. Wrocław; Kraków, 1981.



Е.**Кітовіч**.

**Кітурка** Ірына Фёдараўна (н. 1.7.1970, в.Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на), беларускі гісторык. Канд. гіст. н. (2002). Скончыла Гродзенскі ун-т (1993). У 1993—98 працавала настаўніцай гісторыі ў Гродне. З 1998 у аспірантуры пры Ін-це гісторыі Нац. АН. З 2001 выкладчык Ін-та паслядыпломнай адукацыі Гродзенскага ун-та. Даследуе эканам. гісторыю Беларусі 2-й пал. 17—18 ст.

*Тв.*: Гаспадарчае становішча дзяржаўных уладанняў у Беларусі паводле матэрыялаў люстрацыі 1765 г. // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2001. № 3; «За вольнасць і больш заплацяць...»: Спрэчкі пра аграрныя рэформы ў ВКЛ у другой палове XVIII ст. // Спадчына. 2002. № 4; Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця. Гродна, 2003; Спробы мадэрнізацыі эканомікі ВКЛ у другой палове XVIII ст. // Białoruskie zeszyty historyczne. Białystok, 2003. Z. 20; Аграрная рэформа Антонія Тызенгаўза // Гісторыя Беларусі: У 6 т. Мн., 2004. Т. 3 (з В.Ф.Голубевым); Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Мн., 2004 (з В.Ф.Голубевым).

**Кіхель** (Kiechel) Самуэль (1563—1619), нямецкі падарожнік. Паходзіў з сям'і гандляра г. Ульм. У 1585—89 зрабіў вял. падарожжа па краінах Еўропы і Азіі. У 1586 праязджаў па Беларусі, Літве, Інфлянтах (Гародня—Вільня—Рыга). У справаздачы даў звесткі пра заняткі, лад жыцця, гандаль жыхароў ВКЛ, адзначаў іх верацярпімасць. Упершыню надрукавана ў 1820 у час. «Archiv zur Geografie, Historie, Staats- und Kriegskunst» («Архіў геаграфіі, гісторыі, дзяржаўнай палітыкі і ваеннага мастацтва»).

*Літ.*: Аделунг Ф. Критико-литературное обозрение путешественников по России до 1700 г. и их сочинений: Пер. с нем. М., 1864. Ч. 1. С. 233—238; Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С. 20, 33, 56, 61, 64; Саганович Г. Вильна в описании немецкого путешественника Самуэля Кихеля (1586 г.) // Senoji Lietuvos literatūra. Vilnius, 1998; Кн. 6. Яго ж. Нямецкі падарожнік Самуэль Кіхель пра Горадню часоў Стэфана Баторага // Спадчына. 2002. № 2—3.

**Кішка** Леў (свецкае Лука; 1668; г. Ковель Луцкага ваяв.—19.12.1728), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай, рэлігійны пісьменнік і перакладчык. Паходзіў са шляхецкага роду герба «Дуброва». З 1684 чл. ордэна базыльян. У 1691 скончыў Калегіум прапаганды веры ў Рыме са ступенню доктара багасloўя. У 1694—96 выкладаў рыторыку і філасофію ў базыльянскай школе ў г. Уладзімір. У 1696 прапаведнік і вікарый (намеснік ігумена), у 1697—99 ігумен Віленскага Троіцкага манастыра. Абараніў гэты цэнтр уніяцтва ад дамаганняў епіскапаў і канчаткова падпарадкаваў яго базыльянскаму ордэну (1703). У 1699—1708 архімандрыт Полацкага Барысаглебскага манастыра. У 1703—13 протаархімандрыт (генерал) ордэна базыльян, у 1709—28 архімандрыт Супрасльскага манастыра. Уключыў у склад ордэна базыльян шэраг манастыроў, раней падпарадкаваных епіскапам, умацаваў аўтарытэт і ўладу протаархімандрыта (палічыў несапраўднымі выбары мітрапаліта Юрыя Вінніцкага ў 1708, якія адбыліся без яго ўдзелу, дамогся паўторнага галасавання). Рэгулярна наведваў манастыры, у т.л. архімандрыі, што не ўваходзілі ў ордэн. Аднавіў шэраг зруйнаваных манастыроў і цэркваў, у т.л. ў Беразвеччы, Супраслі, дзейнасць Супрасльскай друкарні, заснаваў паперню. З 1711 епіскап уладзімірскі і берасцейскі, адначасова з 1714 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. Падрыхтаваў і правёў *Замойскі сабор 1720*. Імкнуўся да адзінаўладдзя, хацеў цалкам падначаліць сабе базыльянскі ордэн. Спрабаваў утварыць з манастыроў на Украіне асобную правінцыю і падначаліць непасрэдна сабе. Клапаціўся пра адукацыю белага духавенства. Выдаў на старабел. мове адной кнігай дапаможнік для святароў з катэхізісам для вернікаў «Собрание припадков краткое» (Супрасль, 1722), «Букварь языка словенского» (Супрасль, 1727). Быў прыхільнікам частковага захавання ўсх. абраднасці ў грэка-каталіцкай царкве, хоць не мог супрацьстаяць лацінізацыі. Імкнуўся пераадолець абрадавую разнастайнасць і недахоп богаслужэбнай л-ры (з гэтай мэтай выдадзены вял. тыражом уніфікаваны для ўсіх парафій «Служэбнік» (Супрасль, 1727—32).

*Літ.*: Петров Н. Очерк истории базилианского ордена в бывшей Польше // Тр. Киевской духовной академии. 1870. № 11; Долматов Н. Супрасльский Благовещенский монастырь... СПб., 1892; Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na



Леў **Кішка**.

Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Cz. 1. 2 wyd. Warszawa, 1906; Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907.

***Сяргей Казуля.***

**Кішкі**, Кішкі-Цеханоўскія, магнацкі род герба «Дуброва» ў ВКЛ. Заснавальнік роду Пашка (Павел) Струміла ў пач. 15 ст. быў адным са шматлікіх уладальнікаў Дмошына ў Вышагродскай зямлі (Польшча). Яго сын Юшка (Ежы) Струміла (?—1485) у апошнія гады праўлення Вітаўта займаў пры яго двары пасаду пасцельнічага. Атрымаў ад вял. князя для бацькі г. Цеханавец, а для сябе Бранск на Падляшшы. Пасля смерці Вітаўта вярнуўся ў Польшчу, займаў пасады харужага (1443), падкаморага (1461), кашталяна (1485) львоўскага (магчыма, гэта быў яго аднайменны сын). Кар'ера Ю.Струмілы прывабіла ў ВКЛ яго братоў Мацея (Мацька) і Пятра, якія атрымалі ў спадчыну Цеханавец. У Метрыцы ВКЛ захаваўся недатаваны запіс пра падараванне братам паводле распараджэння ваяводы віленскага Доўгірда (1434—43) «шесть чоловеков Боривойнишки» ў Медніцкай воласці, якія раней належалі Ю.Струмілу. Мацька стаў родапачынальнікам *Цеханавецкіх*. Яго брат Пётр Пашкавіч (Пятрашка Страміла, Цеханоўскі-Страміла, Стramілка) у 1463 і 1469 староста дарагічынскі, у 1477 кухмістр каралевы Альжбеты, у 1483 намеснік лідскі і маршалак гаспадарскі; памёр у час пасольства ў Крым (да 1493). Пётр, відаць, першы насіў мянушку Кішка, якая стала прозвішчам роду. Большасць прадстаўнікоў К. займалі высокія пасады ў ВКЛ. Найб. вядомыя:

Станіслаў Пятрашкавіч (?—1513 або 1514), сын Пятрашкі Страмілы. Падстолі ВКЛ у 1487—88, маршалак гаспадарскі і намеснік лідскі ў 1493, каля 1512 прызначаны маршалкам земскім ВКЛ. Другі шлюб узяў з дачкой ваяводы троцкага П.Я.Мантыгердавіча, ад якой меў сына Пятра і дачку Ганну (жонка Я.М.Радзівіла, кашталяна троцкага, пасля С.Кезгайлы, старасты жамойцкага). Яны атрымалі ў спадчыну Нясвіж, Алыку, Лахву, Іўе.

Пётр Станіслававіч (?—1534), сын Станіслава Пятрашкавіча. Староста дарагічынскі, дзяржаўца ожскі і пераломскі, ваявода полацкі з 1521, кашталян троцкі і староста жамойцкі з 1532. Адзін з буйнейшых магнатаў ВКЛ, валодаў Лоскам, Крожамі, Рамбалцішкамі, Еўнішкамі, Меднікамі і інш. У 1528 выстаўляў у войска 224 коннікаў. Меў сыноў Станіслава, Пятра і Мікалая.

Станіслаў Пятровіч (?—1. 11.1544), сын Пятра Станіслававіча. Староста брацлаўскі (1522), дзяржаўца ўсвяцкі і азярышчанскі, ваявода віцебскі з 1544. Меў сыноў Яна і Станіслава.

Пётр Пятровіч (?—1550), сын Пятра Станіслававіча. Маршалак Валынскай зямлі і староста ўладзімірскі з 1548.

Мікалай Пятровіч (?—1587), сын Пятра Станіслававіча. Крайчы ВКЛ з 1552, падчашы ВКЛ з 1555, ваявода падляшскі з 1569, староста дарагічынскі і бельскі.

Ян Станіслававіч (?—26.7. 1592), сын Станіслава Пятровіча. Вучыўся ў Базелі (1563), з 1564 у Цюрыху, Рыме, Неапалі, Балонні. Крайчы ВКЛ з 1569, падчашы ВКЛ з 1579, староста генеральны жамойцкі з 1579, кашталян віленскі з 1588. У час Інфлянцкай вайны 1558—82 у 1580 з каралём Стафанам Баторыем удзельнічаў у паходзе пад Вял. Лукі, выставіўшы за свой кошт 400 коннікаў і 120 пяхоты. Валодаў 70 гарадамі і 400 вёскамі. У сваіх маёнтках пашырыў арыянства. Заснаваў арыянскую школу ў Іўі, друкарню ў Венграве (1570), *Лоскую друкарню*. На



ARMA ILLVSTRIS AC MAGNIFICI Principis, D. Iohannis Kiscæ, generalis Samagitiæ Capitanei. etc. etc. etc.

IN EADEM ARMA AD IPSVM PRINcipem, Sl. Bud. decastichon exegeticon.

Crux rigidum stringens chalybem, clarissime Kisca,
Quid nisi te Christi discipulum esse notat?
Ipse docet dictis, factisque salubribus, illi
Sub cruce viuendum, qui velit esse suus.
Quid tuba terna notat (Radiuilli stemma vetustum)
Quam quod perstrepitet nomen vbiq. tuum!
Quid rosa verna dehinc, nisi quod sit flosq. decusq.
Qui patriæ spiras dulcia quæq. tua!
Ast gemini pisces quid magna silentia signant,
Quæ præstas quoties his opus esse vides.

Да арт. **Кішкі**. Панегірычны верш С.Буднага на герб Я.С.Кішкі. «Новы запавет». Лоск. 1574.

арыянскіх сінодах у Лоску ў 1578 і 1581, а таксама ў Любчы ў 1582 выступіў супраць радыкальнай плыні ў арыянскім руху. Аўтар некалькіх рэлігійных трактатаў. На сойме 1589 выступіў у абарону верацярпімасці.

Мікалай Мікалаевіч (?—да чэрв. 1620), сын Мікалая Пятровіча. Староста дарагічынскі. Яго сястра Барбара была замужам за князем Ю.Алелькавічам.

Станіслаў Станіслававіч (каля 1577—17.2.1626), сын Станіслава Станіслававіча. Біскуп жамойцкі з 1618. Дзеяч контррэфармацыі (у ліку вернутых ім у каталіцтва быў і яго глуханямы ад нараджэння бацька). Меў братоў Мікалая, Януша і Крыштофа, сясцёр Ганну (жонка гетмана К.Радзівіла) і Альжбету (жонка ваяводы віленскага К.Хадкевіча).

Мікалай Станіслававіч (?—31.5.1644), сын Станіслава Станіслававіча. Ваявода дорпацкі з 1617, мсціслаўскі з 1627, кашталян троцкі з 1636, падскарбі ВКЛ з 1640.

Крыштоф Станіслававіч (?—1646), сын Станіслава Станіслававіча. Чашнік ВКЛ з 1632, ваявода мсціслаўскі з 1636, віцебскі з 1639. Яго дачка Альжбета была замужам за пад-

каморым менскім князем Т.Жыжэмскім, апошняя ў родзе К.

Януш Станіслававіч (каля 1568—13.1.1654), сын Станіслава Станіслававіча. Напачатку кальвініст, потым перайшоў у каталіцтва. У 1624—26 вучыўся ў Падуі (Італія). Вайсковую службу пачаў у 1604 пад камандай гетмана Я.К.Хадкевіча ў час вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29. На чале ўласнага атрада ўдзельнічаў у Кірхгольмскай бітве 1605, у 1609 камандаваў гусарскай харугвай. З 1610 староста парнаўскі. У 1611 удзельнічаў у вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18, у 1621 — вайне з Турцыяй і ў Хацінскай бітве. З 1621 ваявода полацкі. У 1622 ваяваў са шведамі пад Мітавай. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34 абараняў Полацк (1633), вёў баі пад Смаленскам. З 1640 староста дрыскі. З 1635 гетман польны, з 1646 — гетман вялікі ВКЛ. Памёр бяздзетным, апошні мужчынскі прадстаўнік роду.

Большая частка багацця згаслага роду К. перайшла да неаднаразова парodненых з ім Радзівілаў.

*Літ.*: Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. Poznań, 1891. R. 13. S. 28—35; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI w. Warszawa, 1887. S. 125—130; Яго ж. Herbarz polski. Warszawa, 1907. T. 10. S. 101—105; Jakubczak S. Jerzy Strumillo — przywódca konfederacji lwowskiej 1464 // Społeczeństwo Polski średniowiecznej. Warszawa, 1992. T. 5; Siedziby Kiszków i Radzwiłłow na Białorusi w XVI—XVIII wieku: Opisy z zasobu Archiwum Głównego Akt Dawnych. / Opracował J.Zawadzki. Warszawa, 2002; Górska A. Dzieje rodu Kiszków herbu Dąbrowa od końca XV do połowy XVII wieku — wybrane aspekty // Трансфармацыя культуры і грамадства Беларускага Палесся: мінулае, сучаснасць, перспектывы. Брэст, 2003; Asadauskienė N. Kiškų giminė LDK XV—XVII a.: Genealoginis tyrimas. Vilnius, 2003.

***Станіслаў Думін.***

**Клабан** Крыштоф (1550, Каралявец—пасля 1616), кампазітар і выканаўца. Да 1565 флейтыст у Пётркаве, потым інструменталіст, спявак, кампазітар, капельмайстар каралеўскай капэлы Жыгімонта II Аўгуста, Стафана Баторыя і Жыгімонта III Вазы. Пры Стафане Баторыю жыў у Гародні, кіраваў капэлай, напісаў для яе шмат твораў. З музычнай спадчыны К. захаваліся 2 фрагменты шматгалосных месаў і «Песні славянскай Каліёпы», напісаныя з нагоды ўступлення на трон Жыгімонта III (на тэксты Станіслава Грахоўскага, выдадзены ў Кракаве ў 1588). Вядомы «спевы пры лютні», якія аздаблялі прыдворныя ўрачыстасці Стафана Баторыя (захаваліся толькі тэксты Яна Каханоўскага, выдадзены ў Кракаве ў 1583). Музыку К. вызначае высокае прафесійнае майстэрства, віртуознае валоданне тэхнікай шматгалосага спеву, яркая вобразнасць і эмацыянальная ўзнёсласць.

***Аляксей Фралоў.***

**Клакоцкі** Казімір Крыштоф (каля 1625—24.10.1684), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, дзеяч культуры. З мазавецкай шляхты. У 1645—47 вучыўся ў Арлеане (Францыя), падарожнічаў па Еўропе. У бітве пад Батогам 1652 трапіў у татарскую няволю, пасля выкуплены. У 1656 ваяваў супраць шведаў пад Модлінам і Памехавам. З 1657 на службе ў Б.*Радзівіла*, пераважна ў Слуцку. У 1660 узначальваў абарону Слуцка ад войск І.А.Хаванскага. З 1663 губернатар Капыльскага і Слуцкага княстваў. З 1665 стольнік плоцкі, палкоўнік Яго Каралеўскай Міласці, з 1684 харужы менскі, пасол на сойм 1677. Пасля смерці Радзівіла (1669) стаў адным з апекуноў яго дачкі Л.К.*Радзівіл* і адным з аканомаў яе *«Нойбургскіх маёнткаў»*. Ініцыятар адкрыцця ў 1665 *Слуцкай друкарні*, наглядаў за яе працай. Па яго ініцыятыве ў 1678 выдадзена кніга П.Рыко «Турэцкая манархія», якую, напэўна, сам пераклаў з франц. мовы на польскую. Паводле некаторых звестак, К. пераклаў таксама кнігі «Жыццё Магамеда» і «Апісанне Алькарана» М.Бадзье (засталіся ў рукапісах). Ведаў лацінскую, грэчаскую, нямецкую, французскую, турэцкую і татарскую мовы, быў заўзятым бібліяфілам. Сябраваў з паэтам-лацiністам З.*Морштынам*, двойчы выдаў яго паэму «Слаўная вікторыя над туркамі» (1674), прысвечаную Хацінскай бітве 1673. Пасля смерці К. некаторыя яго кнігі перайшлі ў б-ку Слуцкага езуіцкага калегіума, пасля — у Віленскую акадэмію. Пахаваны ў Слуцку.




К.К.**Клакоцкі**. Гравюра А.Тарасевіча. Слуцк. 1685.

*Літ.*: Buchwald-Pelc P. Kazimierz Krzysztof Kłokocki i drukarnia w Słucku // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1967. T. 12.

**класіцызм** (ад лац. classicus узорны), кірунак у еўрапейскай мастацкай культуры 2-й пал. 17—пач. 19 ст. Сутнасць яго ў кананізацыі антычнай класікі як дасканалага ўзору. Адметны універсальнасцю (ахапіў усе віды мастацтва, роды і жанры л-ры, эстэтыку, крытыку і ў пэўным сэнсе элітарны лад жыцця) і адносным стылявым адзінствам. Грунтаваўся на традыцыях *Адраджэння* і адначасова сінтэзаваў у пераўтворанай форме дасягненні прогілеглага яму *барока*, якое папярэднічала і часткова суіснавала з К. Пастулатам К., як і Адраджэння, былі разумнасць, упарадкаванасць і гарманічнасць быцця. Але ў рэнесансавым мастацтве гэта вынікала з пантэістычнай філасофіі, а ў К. яны базіраваліся на дэкартаўскай канцэпцыі дваістасці матэрыяльнай і духоўнай асновы (субстанцыі) быцця.

На ВКЛ тэндэнцыі К. прыкметныя з 17 ст. ў тэорыі (курсы паэтыкі і рыторыкі) і ў маст. практыцы (сілабічная паэзія, тэатр). На лацінскую паэзію і антычную эстэтыку як на ўзоры арыентаваўся М.К.*Сарбеўскі* (яго трактаты на лацінскай мове «Пра дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер», «Пра траге-

дыю і камедыю, або Сенека і Тэрэнцый», «Своеасаблівасці лірыкі, або Гарыцый і Піндар», «Пра вартасці і недахопы элегіі, або Авідзій» і інш.). Спалучэнне стыляў рэнесансу, барока і К. прыкметнае ў *Сімяона Полацкага*. Больш паслядоўна К. у шматмоўнай л-ры ВКЛ выявіўся ў 2-й пал. 18—пач. 19 ст. Асноўныя яго рысы (абагульненасць вобразаў, зададзенасць ідэі, культ антычнасці, імкненне да гармоніі) уласцівы творчасці шэрагу пісьменнікаў, якія пісалі на польскай (А.*Нарушэвіч*, Ю.*Нямцэвіч*, Ф.*Багамолец*, Ф.У.*Радзівіл*, Т.Глінская), рускай (І.Сакольскі, І.Галянеўскі) і лацінскай (М.*Карыцкі*) мовах. Патрабуючы для «высокіх» жанраў «высокай» мовы (польскай, рус., лацінскай або старaслав.) і дапускаючы бел. прастамоўе толькі для «нізкіх» жанраў, нарматыўная эстэтыка К. стрымлівала развіццё бел. л-ры. Тыповым прыкладам класіцысцкага моўнага «раздваення» з'яўляецца творчасць групы драматургаў, звязаных з *Забельскім школьным тэатрам* на Полаччыне. Іх трагедыі («Свабода ў няволі» К.Марашэўскага, «Фемістокл» М.Цяцерскага, «Крэз» І.Юрэвіча) прысвечаны «ўзвышаным» тэмам, узятым з антычнай гісторыі, напісаны па-польску, але ў «нізкую» камедыю («Камедыя» Марашэўскага, «Доктар па прымусу» Цяцерскага) уводзілася бел. мова. Біблейскія і антычныя сюжэты парадзіраваліся ў бел. бурлескнай паэзіі (калядкі «Таго дня вельмі слаўнага», «Стары Восіп барадаты», паэма «Энеіда навыварат»). Эстэтыка К. зрабіла ўплыў на пісьменнікаў


Да арт. **Класіцызм**. Віленская ратуша. 1786—89. Архітэктар Л.Гуцэвіч. Карціна М.Залескага. Да 1836.

19 ст., што пісалі на польскай і бел. мовах: Я.Чачота (філаматкія вершы), Я.Баршчэўскага («Рабункі мужыкоў», «Гарэліца»), В.Дуніна-Марцінкевіча («Ідылія», «Залёты»), у якіх класіцысцкія рысы спалучаліся з элементамі сентыменталізму, рамантызму і рэалізму.

У мастацтве ВКЛ К. з'явіўся ў 2-й пал. 18 ст. Найб. росквіту дасягнуў у дэкар.-прыкладным мастацтве (мэбля, шкло, тканіны, размалёўкі). Дакладнасцю і строгасцю формаў, гармоніяй прапорцый, прастатой і яснасцю дэкору вызначаюцца вырабы з урэцка-налібоцкага шкла. У аздабленні палацава-паркавых ансамбляў, гар. і сельскіх сядзіб выкарыстоўвалі гермы, карыятыды, атланты, рэльефы з адлюстраваннямі класіцыстычных эмблем, алегарычных фігур (палац Храптовічаў у Бешанковічах, палац Радзівілаў у Паланэчцы і інш.). Рысы К. ўласцівы жывапісным творам Ф.*Смуглевіча* («Уступленне Баляслава Храбрага ў Кіеў» і інш.).


Да арт. **Класіцызм**. Ф.Смуглевіч. Скіфскія паслы перад Дарыем. Пасля 1785.

Узнікненне К. ў архітэктуры звязана з развіццём ідэй Асветніцтва, рацыяналізму як спосабу пазнання свету, ростам цікавасці да архітэктуры і мастацтва Старaж. Грэцыі і Старaж. Рыма. Сутнасць К. як стылю ў архітэктуры — у імкненні заказчыкаў і архітэктараў у сваіх творах узнавіць дух антычнасці. Перыядам К. ў архітэктуры ВКЛ з'яўляюцца 1760—95, аднак асобныя праяўленні стылю адзначаюцца і раней, у пач. 18 ст. Для К. характэрна свецкая арыентацыя архітэктуры. Асн. заказчыкамі твораў архітэктуры былі магнаты, шляхта і каралеўскі двор Рэчы Паспалітай, стваральнікамі пабудоў — архітэктары-прафесіяналы, выпускнікі свецкіх вышэйшых навучальных устаноў архітэктуры і мастацтва, акадэмій і ун-таў. Цэнтрамі развіцця К. ў архітэктуры ў ВКЛ былі Вільня, Гародня, маёнткі магнатаў. Тут атрымалі распаўсюджанне 2 асн. кірункі архітэктуры К. — барочны К. і строгі стыль. Першыя праяўленні класіцыстычнай стылістыкі назіраюцца ў канцы 17 ст. ў рамках архі-



тэктуры позняга барока і былі абумоўлены ідэалогіяй *сарматызму*. Гэта выявілася ва ўключэнні ў архітэктуру рэзідэнцый магнатаў антычных форм, у асноўным порцікаў як знакаў прыналежнасці іх уладальнікаў да найстаражытных рымскіх родаў (замкі Радзівілаў у Нясвіжы, Сапегаў у Высокім).

Развіццё барочнага К. звязана з уплывам французскай класіцыстычнай архітэктуры 17—18 ст., выкарыстаннем у класіцыстычных пабудовах традыцый архітэктуры барока і найбольш яскрава выявілася ў дзейнасці архітэктараў Я.С.*Бекера* і Дж.*Сака*. У творчасці Бекера, прыдворнага архітэктара А.М.Сапегі, найб. развіццё атрымаў стыль, арыентаваны на французскую архітэктуру 17 ст. Ён выявіўся ў стварэнні досыць прадстаўнічых пабудоў са значнымі па памерах порцікамі і каланадамі: перабудова палаца Сапегі ў Ружанах (1780-я г.), будынак «акадэміі» ў Дзярэчыне (1786), праект шпіталя ў Высокім (1780-я г.). Стыль Сака, прыдворнага архітэктара караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў ВКЛ, які характарызуецца злучэннем элементаў К., барока і ракако, выявіўся ў стварэнні невял. па памерах палацаў-вілаў караля ў наваколлях Гародні — у Станіслававе, Аўгуставе і Панёмуне (1770-я г.), а таксама ў будаўніцтве палацаў А.Валовіча ў Свяцку (канец 1770-х г.) і І.Храптовіча ў Шчорсах (1770—76). Апроч таго, Сака ў 1770-х г. стварыў заснаваныя на прынцыпах рэгулярнага французскага горадабудаўніцтва планы мануфактур у *Гарадніцы* каля Гародні і мяст. Крынкі ў Гарадзенскім пав. — першага «ідэальнага» плана горада на радыяльнай аснове і адзінай класіцыстычнай задумы цэлага горада ў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст.

Развіццё строгага стылю ў архітэктуры ВКЛ пачалося з сярэдзіны 1770-х г. і характарызуецца выкарыстаннем простых геаметрычных кампазіцыйных пабудоў будынкаў і строгіх антычных форм, пераважна дарычнага ордэра, што было абумоўлена злучэннем авангарднага стылю французскай архітэктуры канца 18 ст. з мясцовай традыцыяй будаўніцтва. Яно звязана з фарміраваннем у Вільні ўласнай архітэктурнай школы на аснове Віленскай езуіцкай акадэміі з кафедрай архітэктуры, з уласнай архітэктурнай праграмай і групай архітэктараў, што сведчыць аб спеласці стылю К. ў ВКЛ. Пачатак развіцця строгага стылю ў архітэктуры ВКЛ пакладзены праф. Віленскай акадэміі М.*Кнакфусам*, які стварыў у Вільні палацы Рэутаў, Лапацінскіх і Бжастоўскіх (1770-я г.), будынак абсерваторыі акадэміі (1782—88). Аднак найб. уклад у яго развіццё зроблены архітэктарамі К.*Спампані* і асабліва Л.*Гуцэвічам*. Спампані стварыў палацавыя комплексы А.Хмары ў Сёмкаве (1771—72), Пшаздзецкіх у Заслаўі (1777—82), Т.Козела ў Беніцы (1779—80), Радзівілаў у Радзівілімонтах (1781), П.К.Бжастоўскага ў Паўлаве (1770-я г.). З яго творчасцю звязана стварэнне на землях ВКЛ аблічча класіцыстычнага сядзібнага дома прамавугольнай формы ў плане з класічным порцікам, у асноўным дарычнага ордэра, а таксама шырокае распаўсюджанне паладыянскіх кампазіцый з каланадамі, якія злучаюць гал. корпус з флігелямі. Гуцэвіч стаў стваральнікам найбуйнейшых твораў строгага К. ў Вільні і наваколлях: перабудовы кафедральнага сабора (1779—90), ратушы (1786—89), палаца епіскапа І.Масальскага ў Верках (1780-я г., разам з Кнакфусам) і інш., што ў значнай ступені абумовіла шырокае развіццё К. ў Літве і Беларусі і паўплывала на фарміраванне ў мясцовай архітэктуры класіцыстычнага аблічча храма з прамавугольнай формай плана і класічным порцікам на гал. фасадзе. Дзякуючы дзейнасці Гуцэвіча былі закладзены асновы свецкай архітэктурнай адукацыі ў ВКЛ і створана самастойная архітэктурная школа К.

У музыцы ВКЛ 18 ст. К. не склаўся ў цэласную з'яву ці шырокі кірунак. У муз. спадчыне кампазітараў Беларусі (Міхала Казіміра *Агінскага*, М.*Радзівіла*, В.*Казлоўскага*) К. іcнаваў у спалучэнні з сентыменталізмам, элементамі рамантызму, барока і ракако; развіваўся ў рэчышчы агульнаеўрапейскіх традыцый, меў шмат рыс і тэндэнцый, агульных з музычнай культурай Захаду. У 1770—90-я г. ў магнацкіх тэатрах Беларусі (Нясвіжы, Слоніме, Гародні) ставілі камічныя оперы італьянскіх кампазітараў («Фраскатанка, ці Залатая дзева» Дж.Паізіела, «Джаніна і Бернардоне» Д.Чымарозы, «Вясковыя сцэны рэўнасці» Дж.Сарці і інш.). Тыповыя рысы, характэрныя для еўрапейскага опернага мастацтва, увасобіліся ў адзіным, што дайшоў да нас, музычным помніку школьнага бел. тэатра — оперы «Апалон-заканадаўца, ці Рэфармаваны Парнас» (кампазітар Р.Вардоцкі, драматург М.Цяцерскі), створанай для тэатра Забельскага дамініканскага калегіума. Рысы К. маюць творы кампазітара Я.Д.*Голанда*, паслядоўніка берлінскай і венскай класічных школ (оперы «Агатка», «Чужое багацце нікому не на карысць», уверцюра да балета «Арфей і Эўрыдыка»), музыка М.*Радзівіла* (6 паланэзаў для камернага аркестра, дывертысмент для 2 скрыпак, альта, 2 флейт, 2 валторнаў, фагота, віяланчэлі і кантрабаса), В.*Казлоўскага*. У традыцыях ранняга К. напісаны творы літургічнай музыкі Беларусі 18 ст. К. панаваў непадзельна ў жанры тагачаснай месы (у гонар Дзевы Марыі, у гонар Нараджэння Хрыста і інш.) і шматгалосым музычным рэпертуары, занатаваным у рукапісах розных каталіцкіх кляштараў.

*Літ.*: Ренессанс. Барокко. Классицизм: Проблема стилей в западноевропейском искусстве XV—XVII в. М., 1966; Дробаў Л.М. Беларускія мастакі XIX ст. Мн., 1971; Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2. Мн., 1968—69; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстет. мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1—3. Мн., 1983—87; Софронова Л.А. Польская театральная культура эпохи Просвещения. М., 1985; Беларуская музыка XVI—XVII стст. Мн., 1990; Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период. Мн., 1990; Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII в. Мн., 1992; W kręgu wileńskiego klasycyzmu. Warszawa, 1999; W kręgu wileńskiego klasycyzmu. Warszawa, 2000.

*Уладзімір Конан* (эстэтыка і літаратура),
*Валерый Марозаў* (архітэктура),
*Наталля Сазановіч* (музыка),
*Алена Шапашнікава* (мастацтва).

**Клачоўскі** (Kłoczowski) Ежы (н. 29. 14.1924, в. Багданы каля г. Пшасныш, Польшча), польскі гісторык. Д-р (1950), праф. звычайны (1974), ганаровы д-р Гродзенскага ун-та (1993). У 2-ю сусветную вайну ў Арміі Краёвай, удзельнічаў у Варшаўскім паўстанні 1944. У 1945—48 вучыўся ў Пазнанскім і Тарунскім ун-тах. З 1950 выкладае ў Каталіцкім ун-це ў Любліне. Адначасова

з 1957 дырэктар Ін-та гістарычнай геаграфіі царквы ў Любліне. З 1991 дырэктар Ін-та Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў Любліне. Узначальвае Польскі камітэт ЮНЕСКА, чл. Выканаўчай рады ЮНЕСКА, старшыня Агульнага к-та ЮНЕСКА, намеснік старшыні Міжнар. камісіі параўнальнай гісторыі цэркваў (з 1980), старшыня Польскай камісіі параўнальнай гісторыі цэркваў у Камітэце гіст. навук Польскай АН, старшыня Міжнар. камітэта гіст. навук. Выкладаў у вышэйшых навуч. установах у Парыжы, Оксфардзе, Прынстане, Мадысане. У 1989—91 суддзя Дзярж. трыбунала, у 1990—91 сенатар. Працы па гісторыі культуры і царквы ў Польшчы і Цэнтральна-Усходняй Еўропе, гісторыі цывілізацыі ў Еўропе.

*Тв.*: Wspólnoty chrześcijańskie: Grupy życia wspólnego w chrześcijaństwie zachodnim od starożytności do XV wieku. Kraków, 1964; Europa słowiańska w XIV—XV wieku. Warszawa, 1984; Kościół katolicki w świecie i w Polsce: Szkice historyczne. Katowice, 1986; Dzieje chrześcijaństwa polskiego. T. 1—2. Paryż, 1987—93 (3 wyd. Warszawa, 2000); Od pustelni do wspólnoty: Grupy zakonne w wielkich religiach świata. Warszawa, 1987; Europa Środkowowschodnia w historiografii krajów regionu. Lublin, 1993; Беларусь, Літва і Украіна ў «Атласе» грамадска-рэлігійнай гісторыі Рэчы Паспалітай многіх народаў // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1994. Кн. 3; Młodsza Europa: Europa Środkowo-Wschodnia w kręgu cywilizacji chrześcijańskiej średniowiecza. Warszawa, 1998 (2 wyd. 2003); Historia Polski: Od czasów najdawniejszych do końca XV wieku. Lublin, 2000; Polska — Europa: Od Gniezna 1000 roku do Polski w Unii Europejskiej. Gdańsk, 2002; Wspólnoty chrześcijańskie w tworzącej się Europie. Poznań, 2003.

*Літ.*: Roczniki humanistyczne. 1986. T. 34, z. 2 (змешчана бібліяграфія прац К.); Historiae peritus: Księga jubileuszowa profesora Jerzego Kłoczowskiego. Cz. 2. Lublin, 1998 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**Клейн** (Klein) Даніэль (30.5.1609, г. Тыльзіт, Прусія—28.11.1666), мовавед. Магістр філасофіі (1636). Скончыў Каралявецкі ун-т (1636). Служыў лютэранскім пастарам у Тыльзіце. Напісаў на лацінскай мове першую граматыку літ. мовы («Grammatica Litvanico-Germanicum», Каралявец, 1653). Апісаў фанетыку, арфаграфію, марфалогію, сінтаксіс літ. мовы, класіфікаваў яе дыялекты. У 1654 выдаў скарочаны варыянт граматыкі на нямецкай мове. Граматыкі К. мелі вял. значэнне для развіцця літ. мовы, унармавання яе літаратурнага варыянта на аснове зах.-аўкштайцкага дыялекту. Удакладніў 4-ю частку перакладу Біблії Ё.*Брэткунаса*. Надрукаваў «Новую кнігу песнапенняў» («Naujos giesmju knygos», 1666), часткай якой быў першы літ. друкаваны малітоўнік. Падрыхтаваў нямецка-літ. слоўнік (не быў апублікаваны).

*Тв.*: Pirmoji lietuvių kalbos gramatika 1653 metai. Vilnius, 1957.

**клейнод**, к л е й н о т (ням. Kleinod, польск. klejnot каштоўны прадмет), 1) вайсковыя знакі адрознення ў казацкіх войсках, сімвалы ўлады гетманаў ВКЛ і Польшчы, казацкіх атаманаў у 16—18 ст. Звычай насіць ці мецъ пэўны К. запазычаны ў туркаў. 2) У ВКЛ К. называлі таксама пэўныя каштоўныя ўпрыгожанні знатных асоб. 3) Дэталь герба, якая размяшчалася на прылбіцы, на фоне паўлінавага або страусавага пер'я.

*Анатоль Цітоў.*




**Клейнод** у выглядзе крыла, прабітага стралой, у гербе «Дамброва». Малюнак. Пач. 19 ст.

**Клецк** (цяпер горад, цэнтр Клецкага р-на Рэспублікі Беларусь), горад у Навагародскім пав., на р. Лань. Упершыню ўпамінаецца ў 1127 як цэнтр княства. З 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1398 упамінаецца клецкі князь Ямант Тулунтавіч. Вял. князь Вітаўт у 1401 перадаў К. свайму брату Жыгімонту Кейстутавічу, а ў 1404 — князю Раману Фёдаравічу. У 1433 пад К. адбылася бітва паміж войскамі Жыгімонта Кейстутавіча і Свідрыгайлы, у якой апошні быў разбіты. Паводле Хронікі Быхаўца, Казімір Жыгімонтавіч хутка пасля заняцця ў 1440 велікакняжацкага пасада аддаў К. і інш. гарады старэйшаму брату Міхаілу, каб замірыць яго ў барацьбе за ўладу. У К. Міхаіл задумаў змову супраць Казіміра. Інш. крыніцы не пацвярджаюць гэтых звестак. Каля 1492 вял. князь Казімір перадаў горад і княства князю Івану Васілевічу Яраславічу, які пакінуў іх у спадчыну свайму сыну Фёдару. У 1503 К. спалены крымскімі татарамі. 5.8.1506 каля горада татары разбіты войскамі ВКЛ на чале з князем




**Клецк**. Гравюра Т.Макоўскага. Пач. 17 ст.



1 – фарны касцёл Св. Тройцы; 2 – плябанія; 3 – царква св. Міколы; 4 – рынак; 5 – Высокі замак; 6 – Дольні замак.

Аўтар В.С.Пазднякоў

М.Л.Глінскім (гл. *Клецкая бітва 1506*). Вял. князь Аляксандр выдаў К. прывілей на 1 кірмаш у год. У 1522—56 К. валодала каралева польская і вял. княгіня літоўская Бона Сфорца. У 1552 у горадзе каля 700 жыхароў (137 двароў, 4 царквы, манастыр, касцёл. З 1558 К. валодалі Радзівілы (горад і княства падараваны М.Радзівілу Чорнаму вял. князем Жыгімонтам Аўгустам у 1551). У 1559 Жыгімонт Аўгуст выдаў прывілей на 2 кірмашы ў год. У 1586—1939 цэнтр Клецкай ардынацыі Радзівілаў. У 1560-я г. ў кальвінскім зборы, пераробленым з касцёла, служыў міністрам (прапаведнікам) С.Будны. У 1595 горад — месца збору войск для падаўлення паўстання С.Налівайкі. У канцы 16 ст. паводле пректа Я.М.Бернардоні (?) пабудаваны мураваны *Клецкі фарны касцёл.* 1626 у К. каля 2000 жыхароў, 448 двароў. У 1641 упамінаецца Клецкая бібліятэка Радзівілаў. У 1652 горад атрымаў герб: паляўнічы ражок, над якім княжацкая шапка (мітра). У 1655 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* К. разбураны атрадам рас. стольніка Р.М.Ізмайлава, насельніцтва скарацілася ўдвая. У 1683 у горадзе каля 1100 жыхароў, 217 двароў. У 17—18 ст. у Клецку 3 рамесныя цэхі. У 17—19 ст. існавалі драўляныя уніяцкія цэрквы Ушэсця і Васкрасенская. С.К.Радзівіл у 1683 заснаваў *Клецкі дамініканскі кляштар.* У 1706, у час *Паўночнай вайны 1700—21,* пад К. шведскі атрад разбіў рас. войска, горад разбураны. У 1710 Аўгуст II выдаў прывілей на 2 кірмашы ў год у К. У 1713 у К. каля 600 жыхароў, 152 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975; Чорны Д.М. Клецк: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1991; Оглоблин Н.Н. Бой со шведами у местечка Клецка, журнал С.П.Неплюева, 19-го апреля 1706 г. // Рус. старина. 1891. Т. 72; Пазднякоў В. Школы і бібліятэкі феадальнага Клецка // Адукацыя. Гісторыя. Мова. Брэст, 1992; Яго ж. Хрысціянскія святыні Клецка XV—XIX стст. // Гіст.-археал. зб. Мн., 1996. № 10; Пазнякоў В., Бубенька Т. Подых незвычайнай эпохі: Клецкая кафля XVI стагоддзя // Мастацтва Беларусі. 1991. № 3.

*Валерый Пазднякоў.*

**Клецкае княства,** феадальнае ўладанне. Як удзельнае княства вядома з 1127. У 14—15 ст. належала князям і вял. князям ВКЛ. Вял. князь Казімір у пачатку свайго панавання называў К.к. воласцю, пазней — паветам, бо яно ўваходзіла ў яго ўладанні непасрэдна разам з інш. валасцямі і паветамі. Вял. князі Аляксандр і Жыгімонт I называлі К.к. паветам. Прыкладна з 1492 і да 1521—22 княства належала князям Івану Васілевічу і Фёдару Іванавічу Яраславічам, але тэрмін «К.к.» ў дакументах не сустракаецца (звычайна — «именье», «добра»), потым перайшло да каралевы і вял. княгіні Боны Сфорца з тымі правамі, якімі валодалі яе папярэднікі. Бона ў дачыненні да К.к. карысталася тэрмінамі «павет» і «княства», апошнім — каб падкрэсліць сваю ўладу, якая ажыццяўлялася праз клецкіх намеснікаў і падстарастаў. У 1552—55 Бона правяла ў княстве адну з першых у Беларусі валочных памер. У гэты час была ажыццёўлена адм. рэформа: падзел К.к. на 6 дзесяткаў (Валасны, Вяжэвіцкі, Канюшскі, Малеўскі, Сіняўскі, Цяцераўскі) быў заменены падзелам на 5 войтаўстваў. Непасрэдна Боне ў К.к. належалі 698 валок зямлі, у т.л. зямля Клецка (каля 45 валок), мяст. Сіняўка і 52 сялы. З 1558 княствам валодалі Радзівілы ў межах, у якіх яго мела Бона (прыкладна тэр. сучаснага Клецкага р-на і паўд. палова Нясвіжскага р-на). Да 1575 колькасць княжацкіх сёл скарацілася да 38 з-за іх узбуйнення, колькасць ворнай зямлі павялічылася да 809 валок. У 1586 Радзівілы ўстанавілі, разам з Алыцкай і Нясвіжскай, Клецкую ардынацыю — буйное неадчужальнае магнацкае ўтварэнне ў складзе Клецкага і Давыд-Гарадоцкага княстваў. Паняцце «К.к.» ў

16 ст. Радзівілы амаль не выкарыстоўвалі, ужывалася назва «Клецкае панства». Тэрмін «К.к.» зноў пачаў ужывацца ў радзівілаўскіх дакументах з 17 ст. Пры Радзівілах К.к. мела атрыбуты дзярж. адм. адзінкі ВКЛ: замкавы суд, асобны ваенны атрад клецкай шляхты. У 1791 К.к. ўвайшло ў склад *Случарэцкага павета*.

*Літ.*: Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892; Грушевский А. Пинское Полесье XIV—XVI вв.: Ист. очерки. Киев, 1903; Пазднякоў В. Татары Клецкага княства XVI ст. // Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы». Менск, 1994. Ч. 1; Bajko A. Ludność księstwa kleckiego w okresie pomiary włocznej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9.

***Валерый Пазднякоў.***



Аўтар В.С.Пазднякоў

**Клецкая бітва 1506**. Адбылася 5 жн. каля г. *Клецк* паміж войскам ВКЛ пад камандаваннем кн. М.Л.Глінскага (гл. ў арт. *Глінскія*) і крымскімі татарамі на чале з царэвічамі Біці і Бурнашом. Мэтай татарскага нападу, арганізаванага ханам Менглі-Гірэем, акрамя захопу палонных, маёмасці і жывёлы быў націск на ўрад ВКЛ, каб прымусіць яго пазбавіцца ад ганаровага вязня, былога хана Вял. Арды і смяротнага ворага крымчакоў Шах-Ахмата (забіць яго ці выдаць жывым у Крым). Крымскае войска (каля 4 тыс. чал. пры 10 тыс. коней) пад Чарнігавам пераправілася цераз Дзясну, а пад Лоевам — цераз Дняпро. Адсюль татары рушылі на Слуцк, пасля на Клецк, дзе прыкладна 20—22 ліп. сталі кашом (лагерам) і распусцілі атрады для збору палону. Асобныя іх чамбулы дасягалі Менска. Цяжкахворы вял. князь Аляксандр 27 ліп. ў Лідзе склікаў паспалітае рушэнне і перадаў камандаванне гетману С.П.Кішку і маршалку дворнаму Глінскаму. 29 ліп. ў Лідзе сабраліся некаторыя павятовыя харугвы, 31 ліп. яны дайшлі да Навагародка. Тут да 3 жн. войска ВКЛ вырасла да 7 тыс. чал. (у асн. харугвы Гарадзенскага, Навагародскага і Менскага паветаў, а таксама наёмная кавалерыя, польская гвардыя Аляксандра і нешматлікая артылерыя). Атрымаўшы інфармацыю ад языкоў, 3 жн. войска шпарка рушыла на Клецк. У час маршу было разбіта некалькі дробных татарскіх атрадаў, аднак Кішка занямог, і паны паставілі на чале войска Глінскага. 5 жн. войска ВКЛ выйшла на левы бераг р. Лань насупраць Клецка і спусцілася крыху ніжэй, да дарогі на Пінск. Наносячы ўдар з ПдЗ, Глінскі разлічваў адрэзаць татарам шляхі да ўцёкаў, прыціснуць іх да водных перашкод і разбіць. Абапал грэблі, па якой ішла дарога Клецк—Пінск, былі збудаваны 2 гаці. Першым на правы бераг Лані пераправіўся невял. атрад вял. маршалка Я.Ю.Забярэзінскага, але быў хутка разбіты. Пасля ўдарылі асн. сілы. Спачатку рушыла правая калона, адразаючы татарам шлях да адступлення, а калі тыя ўсе сілы кінулі супраць яе, цераз Лань пераправілася левая калона з самім Глінскім і ўдарыла ў фланг татарам. Жорсткая бітва скончылася ўцёкамі татараў, шмат іх патанула ў р. Цапра. Рэшту гналі далей, білі пад Капылём, Слуцкам, Петрыкавам, Оўручам, Жытомірам. Яшчэ некалькі дзён войска ВКЛ перахоплівала асобныя татарскія атрады, якія вялі пад Клецк палон з навакольных мясцін. Пераможцам дасталіся шматлікія коні татараў. Было вызвалена шмат палонных (40 тыс., паводле сведчанняў сучаснікаў, відаць, перабольшаных), узята ў палон 2—3 тыс. татараў. К.б. стала самым значным паражэннем крымскіх татараў у Беларусі і паклала канец іх буйным набегам за Прыпяць.

*Літ.*: Herbst S. Kleck 1506 // Herbst S. Potrzeba historii czyli o polskim stylu życia: Wybór pism. Warszawa, 1978. T. 2; Варонін В. Два лісты пра бітву пад Клецкам у 1506 г. // Бел. гіст. агляд. 1995. Т. 2, сш. 2; Чаропка В. Клецкая бітва // Бел. мінуўшчына. 1995. № 2; Чарняўскі М. На слаўным полі пад Клецкам // Бацькаўшчына. Мн., 1996; Блінец А. Бітва пад Клецкам // Бел. гіст. часопіс. 2000. № 4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Клецкі кляштар дамініканцаў**. Заснаваў 24.5.1683 вял. маршалак ВКЛ С.К.*Радзівіл*. Пабудаваны на Рыначнай плошчы г. *Клецк*. Гал. аб'ём касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі прамавугольны, бясслупавы, разам


Касцёл **Клецкага кляштара дамініканцаў**. Фота 1930-х г.



з паўцыркульнай апсідай накрыты высокім агульным дахам. З Пн прымыкае невял. сакрыстыя. Гал. фасад фланкіраваны 2 чацверыковымі вежамі з пакатымі дахамі. Паміж імі быў зроблены просты трохвугольны франтон, па вышыні прыкладна роўны вежам. Даволі сціплы гал. фасад ажыўлялі карнізныя паяскі, нішы і франтоны, бакавыя фасады — шырокія пілястры і прамавугольныя вокны на 2 узроўнях. За касцёлам у 1763 пабудаваны 2-павярховы мураваны кляштарны корпус. Пры К.д.к. дзейнічалі школа і шпіталь. У 1832 кляштар скасаваны, у 1851 тут уладкавана правасл. царква. Вежы былі надбудаваны і накрыты высокімі шатровымі дахамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. Цяпер храм — правасл. царква.

*Літ.*: Пазднякоў В.С. Хрысціянскія святыні Клецка XV—XIX стст. // Гістарычна-археалагічны зб. Мн., 1996. № 10; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001; Слюнькова И.Н. Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002.

**Клецкі фарны касцёл**. Заснаваны, відаць, вял. князем літоўскім Казімірам, асвячоны ў гонар Св. Тройцы. Упершыню ўпамінаецца ў 1450, калі клецкі баярын Андрушка Масцівіловіч даў яму дзесяціну. Пабудаваны на пасадзе г. *Клецк*, першапачаткова быў драўляны. У пач. 1560-х г. пераабсталяваны пад кальвінскі збор, дзе служыў С.Будны, з 1570-х г. зноў касцёл. Мураваны храм пабудаваў у канцы 16 ст., відаць, Дж.М.*Бернардоні* па заказу клецкага ардыната А.Радзівіла, асвячоны ў 1590. Касцёл бесслупавы, да яго асн. аб'ёму далучаецца прамавугольны прэсбітэрый з 3-граннай апсідай. З паўн. боку да прэсбітэрыя прымыкала 2-павярховая сакрыстыя. Сцены асн. аб'ёму і апсіды звонку ўмацаваны контрфорсамі. Гал. фасад завершаны барочным трохвугольным франтонам з 2 круглымі акенцамі па баках. Вокны ў сценах асн. аб'ёму арачныя, выцягнутыя ў вышыню. Да гал. фасада прыбудавана магутная вежа, праз якую вёў гал. ўваход. Яе ніжні ярус прамавугольны, астатнія 4 ярусы, розныя па вышыні, — васьмерыкі. У 17—18 ст. у касцёле знаходзіліся разныя алтары Св. Тройцы, Найсвяцейшай Дзевы Марыі,



**Клецкі фарны касцёл**. Фота 1930-х г.

Ісуса Хрыста, Св. Крыжа, св. Ганны, св. Мікалая, св. Казіміра. Абраз Дзевы Марыі лічыўся цудатворным. У крыпце касцёла знаходзіліся пахаванні Радзівілаў. Пры касцёле дзейнічалі школа і шпіталь. У Вял. Айч. вайну касцёл згарэў, пасля разабраны, захаваліся фрагменты муроў.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993; Пазднякоў В.С. Хрысціянскія святыні Клецка XV—XIX стст. // Гістарычна-археалагічны зб. Мн., 1996. № 10; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэкутра беларускага барока. Мн., 2001.

**клецкія абарончыя ўмацаванні**, комплекс драўляна-земляных умацаванняў Клецка ў 11—18 ст. Складаліся з дзядзінца (Высокага замка) і вакольнага горада (Дольнага замка). Першапачатковы дзядзінец збудаваны на марэнным пагорку каля ўпадзення р. Сільная ў Лань. Пляцоўка мае блізкую да круга форму памерам 90 х 100 м, плошча 0,75 га. Дзядзінец умацаваны валам шырынёй 14 м і вышынёй 2,5—3 м, з боку поля абведзены ровам. Меў драўляную сцяну, відаць, у выглядзе састаўленых клецей (адсюль назва горада — Клецк). Збудаваны, мабыць, Яраславам Мудрым у сярэдзіне 11 ст., узмоцнены ў 1-й пал. 13 ст., шырыня вала дасягнула 18 м, вышыня 5 м, стромкасць схілаў, умацаваных глінай, склала 30—40°, глыбіня рова каля 11 м. Вакольны горад плошчай 7,7 га паўкальцом ахоплівае дзядзінец. Умацаванні вакольнага горада збудаваны, хутчэй за ўсё, у 12—13 ст. Складаліся з землянога вала з драўлянай сцяной і рова шырынёй з усх. боку 8 м, глыбінёй 2,2 м. Вакольны горад мостам злучаўся з дзядзінцам, меў адзін праход у поле ў паўд. напрамку. У сярэдзіне 13 ст. ўмацаванні разбураны, відаць, мангола-татарамі, у 1503 спалены крымскімі татарамі, потым адбудоўваліся. Павіннасць падтрымліваць умацаванні ў належным стане ляжала на клецкай шляхце з яе падданымі. З пач.16 ст. дзядзінец і вакольны горад у дакументах называюцца замкам і парканам. Інвентар 1552 упамінае 2 вежы-брамы на паркане. Інвентар 1626 падае назвы дзядзінца і вакольнага горада як Высокі і Дольны замкі. На тэр. Дольнага замка ўжо адсутнічалі сядзібы гараджан, тут месціўся асабісты двор Радзівілаў. Драўляныя сцены замка названы парканам, у ім было 10 вежаў і 2 вежы-брамы. У Высокі замак вёў мост, які выходзіў да вежы-брамы з гадзіннікам. Драўляныя сцены замка мелі канструкцыю тыпу клецей. Унутры яго знаходзіліся мураваны склеп і цэйхгауз са зброяй, у т.л. з 8 бронзавымі і 3 жалезнымі гарматамі. Ніжэй замкаў на р. Лань была грэбля, якая падымала ваду ў рацэ і дапамагала запаўняць ёю замкавыя равы. Умацаванні разбураны ў 1655 рас. войскам у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Паводле плана 1694 замкі павінны былі адбудаваць, а ўвесь горад абвесці драўлянымі ўмацаваннямі з 3 «сцен» (праслаў) і 4 вежаў-брам на важнейшых вуліцах. Пасля разбурэння горада шведамі ў 1706 і наступнага заняпаду Клецка план рэалізаваны часткова (пастаўлены брамы на Жыдоўскай і Цаперскай вуліцах). У 18 ст. ўсе ўмацаванні канчаткова разбурыліся.

*Літ.*: Пазднякоў В.С. Умацаванні Клецка XI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мн., 1993. Ч. 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Клімавічус** (Клімовіч; Klimavičius) Казімерас (каля 1720—пасля 1786), дзеяч каталіцкай царквы. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Святарстваваў у Жамойцкім біскупстве, плябан лайжуўскі і дэкан альседскі ў 1767—81. Склаў арыгінальны катэхізіс на літ. мо-



PAWINASTES
KRIKSCIONISZKAS,
*Arba*
KATECHIZMAS,
*Kureme*
Duodase wysokie pamokſłay ką tu-
rey, Kožnas Krikſcioniſzkas zmo-
gus tykiete, zinote, kaypo pa-
gał Diewo cnatliway giwen-
damas ant swieto, iſzgani-
ma apturiete.
NAUJEY,
Dieł pazitko Dwasiſzko, ſu ay-
ſzkiu iſzguldimu, Taiemniciu
Wieros Szwętos,
*Par ſtorone,*
Kunigo KAZIMIERA KLIMAWICIAUS
Dziekona Alsiedziu, Plebona Łayżuwos,
SURASITAS,
*Ir Drukon*
Jo włoſnu kaſztu paduotas,
*Metuſe 1767.*
WILNIUY
Drukaroiey Akademios *Societatis JESU.*

К.**Клімавічус**. Катэхізіс. Вільня. 1767. Тытульны ліст.

ве «Pavinastes krikscioniszkas, arba Katechizmas» (Вільня, 1767).

**Клімавічы** (цяпер горад, цэнтр Клімавіцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Мсціслаўскім ваяв. Упершыню згадваецца ў 1581 як сельскае паселішча. У 17—пач. 18 ст. адносілася да Крычаўскага старасства, аднак увесь час знаходзілася ў пасэсіі ў розных шляхецкіх родаў. У 1765 цэнтр невял. нягродавага старасства, што належала Бяляцкім. Вёска знаходзілася на левым беразе р. Каленіца. Мела радыяльную планіроўку, цэнтрам якой была плошча з храмам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Клімас** (Klimas) Пранас (23.2.1891, в. Кушлішкі Марыямпольскага р-на, Літва—16.1.1969), літоўскі гісторык, дыпламат. Скончыў Маскоўскі ун-т (1914). У 1917—18 чл. Літоўскай Тарыбы. У 1919—23 працаваў у міністэрстве замежных спраў. Адначасова ў 1920—23 выкладаў у Каўнаскім ун-це. У 1923—25 пасол у Італіі, у 1925—40 — у Францыі. Працы па гісторыі Літ. дзяржавы, права і землеўладання ў ВКЛ. Выдаваў гіст. крыніцы. Аўтар падручніка літ. мовы, дзённікаў, успамінаў.

*Тв.*: Lietuva, jos gyventojai ir sienos. 1917; Lietuvių senobės bruožai. 1919; Lietuvos žemės valdymo istorija: (iki lenkmečiu). 1919; Litwa starożytna. Wilno, 1921; Istorinė Lietuvos valstybės apžvalga. Kaunas, 1922.

***Валерый Пазднякоў.***

**Клімаў** Ігар Паўлавіч (н. 6.1.1968, г. Светлагорск Гомельскай вобл.), беларускі мовазнавец і літаратуразнавец. Канд. філалагічных навук (1997). Скончыў БДУ (1992). У 1997—99 дацэнт кафедры філалогіі Гуманітарна-эканамічнага недзярж. ін-та, у 1999—2000 старшы выкладчык кафедры агульнага мовазнаўства Мінскага дзярж. лінгвістычнага ун-та, з 2000 дацэнт кафедры бел. філалогіі Бел. дзярж. ун-та л-ры і мастацтваў. Даследуе праблемы гісторыі бел. мовы і л-ры, славістыкі, біблеістыкі.

*Тв.*: Да біяграфіі Васіля Цяпінскага, перакладчыка і выдаўца Евангелля // Бел. гіст. агляд. 2002. Т. 9, сш. 1—2; Тэорыя заходнееўрапейскага ліста ў часы Сярэднявечча і Рэнэсансу // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2003. Вып. 4; Московский оригинал церковнославянского текста в старобелорусском «Евангелии Тяпинского» // Лингвистическое источниковедение и история русского языка, 2002—2003. М., 2003; Рэфармацыя ў гісторыі літаратурных моў славян: уклад польска-бел. і славенска-харвацкага пратэстантызму 16 ст. Мн., 2004; Структура пражскіх прадмоў Ф.Скарыны // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2004. № 4; Кваліфікацыя літаратурна-пісьмовай мовы Кіеўскай Русі: (гістарыяграфія аднаго заблытанага пытання) // Бел. гіст. агляд. 2004. Т. 11, сш. 1—2; Беларускія і ўкраінскія катэхізісы 16—18 стст. // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2005. Вып. 6; Das Evangelium des Vasil Tjapinski als Denkmal der Literatur und der Buchdrucks // Evanhelije in der übersetzung des Vasil Tjapinski um 1580: Facsimile und Kommentare. Paderborn; München; Wien; Zürich, 2005.

**Клічаў** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска ў Віцебскім ваяв. Упершыню ўпамінаецца ў 1529. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Клічаўскага р-на. Мн., 1995.

**Клочкі**, шляхецкі род герба «Павяла». Родапачынальнік Ян жыў у сярэдзіне—2-й пал. 15 ст., пакінуў сыноў Войцеха, Міхну, Мікалая і Алехну. З іх Войцех (каля 1450—1514) служыў ахмістрам вял. княгіні Алены Іванаўны, набыў маёнтак Дарагова ў Навагародскім пав. У канцы жыцця быў намеснікам ковенскім. Яго сын Мацей (каля 1480—1543), ваявода віцебскі з 1532 і адначасова намеснік Аболецкага маёнтка каралевы Боны з 1533, староста жамойцкі з 1542, часам ужываў прозвішча Ахмістровіч. Быў жанаты з Кацярынай Глябовіч, спадчынніцай маёнтка Рудка на Падляшшы. У 1528 ставіў у войска 47 коннікаў са сваіх маёнткаў і 18 — з жончыных. Памёр без нашчадкаў. Інш. галіны роду К. згаслі ў 2-й пал. 16 ст.

***Вячаслаў Насевіч.***

**ключ**, адміністрацыйна-гаспадарчы комплекс з некалькіх вёсак з фальваркамі ці без іх у Беларусі, Польшчы і Літве ў 16—19 ст. Існавалі ў дзярж. і прыватных уладаннях. На К., як правіла, падзяляліся дзярж. *эканоміі*. Гарадзенская эканомія ў 18 ст. складалася з 22 К. Берасцейскі К. у Берасцейска-Кобрынскай эканоміі ў 1786 меў 5 вёсак (Рэчыца, Сычы, Нехалсты, Яцковічы, Скокі; усяго 245 сял. дымоў). Быхаўскае графства Сапегаў у 1752 падзялялася на 5 К.: Сапежынскі, Баркалабаўскі, Гарадзецкі, Лучыцкі і Навабыхаўскі (усяго 42 вёскі, 1840 дымоў). У Смядынскім графстве Радзівілаў у 1781 былі 4 К.: Смядынскі, Асавецкі, Любчанскі і Дарашэвіцкі (усяго 17 вёсак, 520 дымоў). К. мог быць часова вылучаны з латыфундыі і перададзены ў залогавае ці арэнднае трыманне, у гэтым выпадку адміністрацыя ўласніка не распаўсюджвалася на яго. Напр., ключ Глыбокае ў Ашмянскім пав. ў 18 ст. пераходзіў некалькі разоў з рук у рукі розных трымальнікаў, застаючыся ўладаннем Радзівілаў. У гэтым К. былі 3 фальваркі: Глыбокае, Шарабан, Порплішча, за кожным з якіх была замацавана вёска; усяго ў 1752 тут налічваліся 603 дымы. К. маглі называцца старастам. Невял. Высакадворскі маёнтак, які ў канцы 18 ст. меў 79 дымоў, у розных дакументах называецца і К., і старастам. У адм.-гасп. адносінах К. быў падобны да *войтаўства*.

*Літ.*: Горбачевский Н.И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

***Павел Казлоўскі.***

**ключнік**, службовая асоба мясцовай адміністрацыі ВКЛ у 15—16 ст. Загадваў зборам мядовай даніны ў дзярж. скарб (ключ). Быў падначалены ваяводам.

**Ключэўскі** Васіль Восіпавіч [16(28).1.1841, в. Вазнясенскае Пензенскай губ.—12(25).5.1911], расійскі гісторык. Акадэмік Пецярбургскай АН (1900, чл.-кар. 1889). З сям'і святара. Вучыўся ў пензенскіх прыходскім духоўным вучылішчы і духоўнай семінарыі, скончыў гісторыка-філалагічны ф-т Маскоўскага ун-та (1865). З 1867 пачаў выкладчыцкую дзейнасць. З 1871 прыват-дацэнт Маскоўскай духоўнай акадэміі, адначасова ўзначальваў кафедру ў Аляксандраўскім ваенным вучылішчы, чытаў лекцыі на Вышэйшых жаночых курсах. У 1872 абараніў магістэрскую дысертацыю «Старажытнарускія жыцця святых як гістарычная крыніца», у 1882 — доктарскую «Баярская дума Старажытнай Русі». З 1879 дацэнт, з 1882 праф. Маскоўскага ун-та. З 1880-х г. чл. таварыстваў: Маскоўскага археал., гісторыі і старажытнасцей Расійскіх, аматараў рас. славеснасці. У першай вял. навук. працы «Сказанні іншаземцаў аб Маскоўскай дзяржаве» («Сказания иностранцев о Московском государстве», Масква, 1866) у якасці крыніцы поруч з шэрагам зах.-еўрапейскіх аўтараў выкарыстаў твор *Міхалона Літвіна* «Пра норавы татараў, літвінаў і маскавітаў». Аўтар даследаванняў па гісторыі Расіі да 19 ст., у т.л. «Паходжанне прыгоннага права ў Расіі» («Происхождение крепостного права в России», Масква, 1885), «Гісторыя саслоўяў у Расіі» («История сословий в России», Масква, 1913). Яго лекцыі па гісторыі, гістарыяграфіі і крыніцазнаўстве ляглі ў аснову «Курса рускай гісторыі» («Курс русской истории», ч. 1—4, 1904—10). У перыядызацыі гісторыі спалучаў геаграфічны, палітычны і эканам. фактары, вылучаў 4 перыяды рус. гісторыі: Русь Дняпроўскую, якую не лічыў адзінай дзяржавай; Паўн.-Усх. Русь; пачатак дзярж. магутнасці Расіі; утварэнне Рас. імперыі. Закранаючы пытанні гісторыі Беларусі, сцвярджаў, што парадкі самадзяржаўна-дваранскага праўлення ў Расіі здаўна прымушалі рас. сялян уцякаць у Рэч Паспалітую. Лічыў, што ўцёкі сялян за зах. межы дзяржавы, асабліва ў 18 ст., сталі нац. бедствам Расіі. Разглядаў праблему далучэння Беларусі да Расіі. Крытычна пераглядаў летапісны матэрыял і адзначаў уплыў летапісання на погляды гісторыкаў 18—19 ст. Вучнямі К. былі гісторыкі П.М.Мілюкоў, М.К. Любаўскі, А.А.Кізеветэр, М.М.Пакроўскі.

*Тв.*: Соч. Т. 1—9. М., 1987—90; Афоризмы. Исторические портреты и этюды. Дневники. М., 1993; Русская история: Полн. курс. лекций: В 3 кн. Кн. 1. М., 1993.

*Літ.*: Нечкина М.В. В.О.Ключевский: История жизни и творчества. М., 1974.

***Юрый Драгун.***

**клявец**, від абуховай зброі, разнавіднасць *чакана*. Абух К. быў найчасцей аформлены ў выглядзе малатка, але ролю сякеркі ў іх выконвала завостраная дзюба, загнутая ўніз. Яна служыла для разбівання пласцін даспеха і была гал. элементам К. — вельмі эфектыўнага сродку барацьбы з цяжкай кавалерыяй. У ВКЛ К. ўпамінаюцца ў крыніцах 16 ст., іх называлі таксама «надзак» (ад польск. nadziak), «кірка». У 17 ст. «цывільны» варыянт К. — абушок з дзюбай, загнутай да дрэўка. У Гомелі выяўлены ранні ўзор К. без малаткападобнага абуха і з дзюбай, падобнай на сякерку з надзвычай вузкім і доўгім лязом. К., знойдзены ў Крычаве ў слаі 16 ст., мае загнутую ўніз дзюбу квадратнага сячэння і патоўшчаны малаткападобны абух, завершаны ў выглядзе ўсечанай пірамідкі; яго агульная даўжыня 17,5 см.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. 2 wyd. Warszawa, 1989; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 149—150.

***Юрась Бохан.***

**Кляге** Тамаш (каля 1598, в. Гермсдорф пад Ольштынам—14.6.1664), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, гісторык. Магістр вольных навук і філасофіі (1641). З багатай сялянскай сям'і. Вучыўся ў Ольштыне, Браневе, Полацку, Пултуску, Вільні. У 1618 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1630 ксёндз. У 1624—27 выкладаў паэтыку і рыторыку ў Нясвіжы, у 1631—32 місіянер у Караляўцы, у 1634—35 выкладаў матэматыку ў Пултуску, у 1636—41 суперыёр рэзідэнцыі ў Рэшэлі, у 1641—44 выкладаў рыторыку і Свяшчэннае Пісанне ў Вільні, у 1644—47 рэктар Нясвіжскага езуіцкага калегіума, у 1647—49 рэктар Папскай семінарыі і праф. Свяшчэннага Пісання ў Браневе, у 1650—53 рэктар Бранеўскага калегіума. У час вайны са Швецыяй да 1659 у Аўстрыі і Германіі. У 1660—62 выкладаў езуіцкае права ў Пінску. Аўтар драмы «Плаванне славы, або Ясон» («Cursus gloriae sive Jason fabula», пастаўлена ў 1634 і 1643), вершаў, палемічных твораў, у т.л.: «Даследаванне убіквізму» («Quaestiones ubiquisticae», Вільня, 1644, тут сцвярджаў, што гал. прычынай рэлігійных спрэчак з'яўляецца убіквізм — лютэранскае вучэнне пра еўхарыстыю), «Пасланец Меркурыя Элігія Пруская супраць лютэранскіх выказванняў» («Prodromus Mercurii Eligio Borussi contra praedicantes Litheranos», Вільня, 1651), «Ліпа Марыі» («Linda Mariana», Кёльн, 1659, пра касцёл з вядомым абразом Маці Божай у Святой Ліпцы ў Вармії), «Абраз Найсвяцейшай Дзевы Марыі цудатворны пінскі езуітаў пінскіх у Польшчы» («Imago BMV Miraculosa Pinscensis S.J. Pinsci in Polonia», пра Лагішынскі абраз Маці Божай). У рукапісе застаўся вялізны твор «Вежа Давіда» («Turris David»), задуманы як памятная кніга ў гонар 100-годдзя ордэна езуітаў.

**Кляпацкі** (Клепатський, Клепатский) Павел Рыгоравіч (12.1.1885, с. Пугачоўка Тарашчанскага пав. Кіеўскай губ.—пасля 1938), украінскі гісторык. Магістр рас. гісторыі, прафесар. Скончыў Новарасійскі ун-т у Адэсе (1908), дзе пасля выкладаў. З 1917 прыват-дацэнт Укр. ун-та ў Камянцы-Падольскім. У 1922 узначаліў раённае архіўнае ўпраўленне. У 1922 арыштаваны, у тым жа годзе пераехаў у Палтаву, дзе выкладаў у Ін-це сац. выхавання (пазней Ін-т нар. асветы). У 1931 арыштаваны па справе Саюза вызвалення Украіны. Пазней пераехаў у Мелітопаль. Выкладаў у Дагестанскім пед. ін-це (у 1936 звольнены за «трацкізм»), жыў у Арэнбургу, Соль-Ілецку. У 1936 асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі, а ў 1938 — да 7 гадоў. Далейшы лёс невядомы. Працы па гісторыі Кіеўшчыны ў складзе ВКЛ, бел.-літ. летапісанні, гісторыі Палтаўшчыны.

*Тв.*: Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Литовский период. Одесса, 1912; Императрица Екатерина Вторая: Характеристика личности и царствования (по новейшим документам и исследованиям). Одесса, 1912; Огляд джерел до історії України. Вип. 1. Кам'янець на Поділлю, 1921.

*Літ.*: Ричка В.М. Загублене життя (П.Г.Клепатський) // Репресоване краєзнавство. Київ, 1991.

**кляштар** (ад. лац. claustrum замак, закрытае месца), каталіцкі манастыр. Належалі да пэўных *ордэнаў манаскіх*. На тэр. Беларусі адзінкавыя К. вядомы з сярэдзіны 13 ст. К., многія ўзніклі неўзабаве пасля хрышчэння Літвы (1387). Большасць К. заснавана ў перыяд контррэфармацыі, іх фундатарамі былі каралі польскія і вял. князі літоўскія, магнаты, шляхта. Пры многіх К. працавалі *шпіталі*, школы. Класічны тып К. выпрацаваны ордэнам бенедыкцінцаў. Гэта быў замкнёны ансамбль будынкаў або памяшканняў для жыцця манаскай супольнасці. Цэнтрам ансамбля быў *касцёл*. Каля яго рабілі абкружаны крытай галерэяй (клуатрам) чатырохвугольны двор, сад. З усходу да клуатра прымыкала зала капітула, з захаду — келлі, або дарміторый. Насупраць касцёла будавалі трапезную залу (рэфекторый). Астатнія будынкі (дом абата, шпіталь, школа, гасп. пабудовы) размяшчаліся на тэрыторыі ў межах кляштарных муроў. Бенедыкцінскі тып К. быў запазычаны большасцю каталіцкіх ордэнаў і прыстасаваны адпаведна характару іх дзейнасці. Пераважная большасць К. Беларусі і Літвы зачынены пасля паўстанняў 1830—31 і 1863—64.

***Сяргей Сергачоў.***

**Кміта** Пётр (?—паміж 1629 і 1632), пісьменнік, выдавец, друкар. У маладосці падпісваўся Бластусовіч, Бластус, Бласт. Быў звязаны з антытрынітарскім рухам у ВКЛ. Ажаніўся з дачкой віленскага друкара Я.*Карцана* і атрымаў частку друкарскага абсталявання цесця. У 1611—12 меў у Вільні ўласную друкарню (вядома 5 яе выданняў), пасля пераезду у Любчу пад пратэкцыяй кальвініста К.*Радзівіла* (гл. *Любчанская друкарня*). У друкарнях К. друкаваліся прадстаўнікі розных некаталіцкіх плыняў, у асн. кальвіністы. Выдаваў кнігі на польскай і лацінскай мовах па тэалогіі, філасофіі, гісторыі,


RERVM AB ILLVSTRISSIMO PRINCIPE CHRISTOPHORO RADIVILO, BIRZARVM ET DVBINCORVM DVCE, PALATINO VILNENSI, EXERCITVVM MAGNI DVCAT. LITVANIÆ PRÆFECTO GENERALI, &c. PRÆCLARE GESTARVM EPITOME.
CONSCRIPTA SVB EIVSDEM PRINCIPIS EXEQVIAS A SOLOMONE RYSINIO.
ACCESSIT VARIORVM MONVMENTORVM DECAS. EODEM AVCTORE.
LVBECÆ AD CHRONVM. IN OFFICINA PETRI BLASTI. AN. DN. M. DC. XIV.

Да арт. **Кміта** П. С.Рысінскі. Эпітоме. Любча, 1614. Тытульны ліст.

медыцыне, л-ры і інш. Як аўтар напісаў вершы для кніг Я.Л.*Намыслоўскага* «Каталісіс» (1598) і С.*Рысінскага* «Тысяча восемсот польскіх прыказак» (1618), забяспечыў прадмовай, дапоўніў і двойчы выдаў кнігу «Апафегмата» Б.*Буднага* (1614 і пасля 1614), пераклаў на польскую мову «Прагностык астралагічны на 1621 год» С.Герцыуса, змяшчаў прысвячэнні магнатам-мецэнатам. У Любчы К. выдаў 52 кнігі аб'ёмам каля 280 аркушаў. Паводле сведчання Рысінскага, праз рукі К. праходзіла тайная перапіска пратэстантаў у час ганенняў на арыян. Выдавецкую справу К. з 1632 прадоўжыў яго сын Ян.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Wrocław; Kraków, 1959. Z. 5; Порецкий Я. Соломон Рысинский = Solomo Pantherus Leucorussus: Конец XVI—начало XVII вв. Мн., 1983.

**Кміта-Чарнабыльскі** Філон Сямёнавіч (каля 1530—да 25.3.1587), ваенны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду Кмітаў. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* камандаваў войскамі на ўсх. мяжы дзяржавы. У 1562 як дзяржаўца замка Асцёр каля Кіева на чале 300 коннікаў разбіў 2-тысячны атрад рас. войск. На чале атрада з 1400 коннікаў аблажыў і захапіў Чарнігаў. Разам з ротай К.В.Астрожскага перамог утрая большы рас. атрад князя Мяшчэрскага. З 1000 коннікамі зрабіў рэйд да Старадуба, у час вяртання разбіў рас. атрад на р. Сноў. У студз. 1564 абараняў з ПдЗ наступленне гал. сіл арміі ВКЛ (камандуючы М.Радзівіл Руды) на Полацк. Скарыстаўшы перамогу войск ВКЛ у Ульскай бітве, К.-Ч. праследаваў рас. войскі да Смаленска. Летам 1565 на чале 1600 коннікаў уступіў у Северскую зямлю і ўзяў Почап. За ваенныя заслугі ў 1566 атрымаў каралеўскі прывілей на прызначэнне дзяржаўцам Чарнобыля (адсюль 2-я частка прозвішча). У 1566 прызначаны аршанскім старастам з абавязкам ахоўваць аршанска-смаленскае пагранічча. У 1568 з 4-тысячным атрадам ваяваў на Смаленшчыне, разбіў частку смаленскага гарнізона, зрабіў рэйд да Вязьмы. З Оршы дасылаў у Вільню панам-радзе ВКЛ данясенні пра становішча на дзярж. мяжы і ў Расіі (захавалася 30 лістоў за 1573—74). Данясенні напісаны эмацыянальна, публіцыстычна, з выкарыстаннем нар. прыказак, з'яўляюцца помнікам старaж.-бел. літаратуры. У час полацкага паходу 1579 яго атрад прыкрываў армію Рэчы Паспалітай з боку Смаленшчыны. У 1579 прызначаны ваяводам смаленскім (пасада намінальная і непрыбытковая, бо Смаленск застаўся ў Расіі, але давала К.-Ч. месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай). У час паходу на Вял. Лукі 1580 з 9-тысячным войскам уварваўся на Смаленшчыну, але быў разбіты і вярнуўся да Оршы. Прызначаны намеснікам у г. Вял. Лукі. У 1580—81 праводзіў рэйды ў глыб рас. тэрыторыі, арганізаваў паспяховы паход па заваяванні г. Холм.

*Тв.*: Лісты // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.

*Літ.*: Саверчанка І. Эпісталярная спадчына Філона Кміты-Чарнабыльскага // Бел. гіст. часопіс. 2006. № 5.

**Кміціч** Самуіл (?—1692), ваенны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з дробнай аршанскай шляхты. Вайсковую службу пачаў паручнікам у 1654. Удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. З полацкай, віцебскай і аршанскай шляхты стварыў харугву, якая ўвайшла ў полк Б.Радзівіла і ўдзельнічала ў зімовым контрнаступленні войск ВКЛ. У жн. 1655 далучыўся да канфедэрацыі, што ўтварылася пад Вярбілавам супраць вял. гетмана Я.Радзівіла, потым узначаліў полк у дывізіі П.Я.Сапегі. Удзельнічаў у бітвах са шведамі. У вер.



1658 на чале 12 харугваў дзейнічаў у глыбокім тыле маскоўскага войска ва ўсх. Беларусі. У 1659 на чале палка ваяваў супраць шведаў у Курляндыі, у 1660 — на Падляшшы. Зацяты праціўнік караля Яна II Казіміра, інспіратар бунту войска ў інтарэсах вял. гетмана Сапегі. У крас. 1660 дывізія Сапегі сканфедэравалася і абвясціла К. сваім «генеральным палкоўнікам». Удзельнічаў у *Палонкаўскай бітве 1660*, потым у дзеяннях супраць рас. арміі на У Беларусі. У 1663 зрабіў глыбокі рэйд за Смаленск. У 1664 удзельнічаў у паходзе пад Рослаў і Бранск, потым да 1665 блакіраваў рас. гарнізон у Полацку. Пасля вайны жыў на Аршаншчыне, актыўна ўдзельнічаў у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska i Związek Braterski wojska litewskiego w latach 1660—1663. Warszawa, 1989.

***Генадзь Сагановіч.***

**Кнакфус** (Knackfuss) Марцін (каля 1740, г. Вулька каля Варшавы—каля 1821), архітэктар. Быў цесна звязаны з Віленскай акадэміяй (Гал. школай ВКЛ), у 1773—75 тут выкладаў, з 1777 праф. архітэктуры, у 1782—94 яе архітэктар. Аўтар праекта пабуд. прыбудовы да абсерваторыі акадэміі (1782—88), ажыццяўляў нагляд за рэканструкцыяй і будаўніцтвам карпусоў акадэміі. Пабудаваў усх. і зах. часткі *Веркаўскага палаца* (будаўніцтва пачата ў 1780), касцёл у Куртавянах каля Шаўляў (1783—92), перабудаваў у Вільні палацы Лапацінскіх, Рэутаў, Абрамовічаў, Тызенгаўзаў, Бжастоўскіх, Зялёны мост цераз Вілію, жылыя дамы. Удзельнічаў у пабудове палаца ў Паазер'і каля Ваўкавішак (1796—99). З творчасцю К. звязаны пачатак у архітэктуры ВКЛ строгага класіцыстычнага стылю. Удзельнічаў у *паўстанні 1794*.

**«Кніга Пасольская Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага...»** («Книга Посольская Метрики Великого Княжества Литвоского ...»), выданне кніг-копій *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* дыпламатычнага зместу. Выдадзена ў Маскве ў 1843 у 2 тамах (на тытульных лістах нумарацыя тамоў не пазначана). Падрыхтавана паводле даручэння Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх М.А.*Абаленскім*, І.М.*Даніловічам* (т. 1), М.П.Пагодзіным, Дз.М.Дубенскім (т. 2). У т. 1 апублікавана кніга Метрыкі, якая змяшчае дыпламатычную перапіску вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста з Крымскім ханствам, Турцыяй, Расіяй, Прусіяй, Валахіяй і інш. за 1545—72 (усяго 195 дакументаў). У прадмове да тома выкладзена гісторыя Метрыкі ВКЛ і Каронная Метрыкі, у дадатках змешчаны вопіс кніг Метрык, некаторых актаў Метрык, мірны дагавор Альгерда і Казіміра III 1366, факсіміле старонкі апублікаванай пасольскай кнігі, табліца філіграней. У т. 2 апублікавана кніга Метрыкі з дакументамі дыпламатычнага характару вял. князя літоўскага і караля польскага Стафана Баторыя за 1576—83 (усяго 104 дакументы). У асн. дакументы датычаць адносін Рэчы Паспалітай з Расіяй. Змешчаны таксама некаторыя больш раннія акты, факсіміле старонкі пасольскай кнігі, табліца філіграней.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 44—47.

**кнігадрукаванне**, комплекс вытворчых працэсаў па вырабе друкаванай кнігі. Друкаванай кнізе папярэднічала *рукапісная кніга*. Найб. раннім спосабам механічнага ўзнаўлення тэкстаў і ілюстрацый была ксілаграфія — друкаванне з гравіраванай на дрэве формы. Першае друкаванае выданне «Алмазная сутра» ўбачыла свет у 868 у Кітаі. Еўрап. спосаб К. з дапамогай наборнага шрыфту вынайдзены ў сярэдзіне 15 ст. І.Гутэнбергам. Першая слав. (на чэшскай мове) друкаваная кніга «Траянская хроніка» выйшла ў Чэхіі каля 1468. Першыя старадрукі кірыліцкага шрыфту «Актоіх» і «Часаслоў» выдадзены Ш.*Фіёлем* у Кракаве ў 1491. Першая рус. датаваная друкаваная кніга «Апостал» выдадзена ў 1564. І.*Фёдаравым* і П.Мсціслаўцам. На Украіне К. пачалося з выдання Фёдаравым у 1574 у Львове «Апостала».

На мяжы 15—16 ст. друкаваная кніга стала важным элементам у грамадскім жыцці ВКЛ. Царква як духоўны манапаліст сярэдневяковага грамадства выкарыстоўвала кнігі літургічнага, тэалагічнага, палемічнага зместу ва ўнутрыцарк. дзейнасці, у барацьбе з ерасямі, вальнадумствам, для ўмацавання сац. пазіцый духавенства. У друкаванай кнізе мелі патрэбу феадалы, кіруючыя колы, што імкнуліся ўмацаваць сваё палітычнае і ідэалагічнае становішча, абагульніць і нармалізаваць дзярж. заканадаўства, гар. насельніцтва, зацікаўленае ў развіцці свецкай пісьменнасці, школьнай справы, адукацыі. У 2-й пал. 16 ст. попыт на кнігі павялічыўся ў сувязі з развіццём феад. грамадскіх адносін, пашырэннем Рэфармацыі і абвастрэннем царк.-рэлігійнай барацьбы, рэалізацыяй палітычных планаў, у т.л. дзярж. уніі з Польшчай, і інш. З канца 15 ст. еўрапейскія друкаваныя выданні былі вядомы на Беларусі і ў Літве дзякуючы шырокім гандлёвым, культ. і палітычным сувязям з Польшчай і інш. суседнімі краінамі. Па заказе віленскага каноніка Марціна ў Гданьску ў 1499 была надрукавана кніга каталіцкіх абрадаў «Агенда» (на лац. мове).

Бел. К. ўзнікла ў 1-й чвэрці 16 ст. і звязана з дзейнасцю Ф.*Скарыны*. Яго кнігавыдавецкая дзейнасць пачалася ў Празе з кніг Бібліі. У 1517—19 ён выдаў у пражскай друкарні 23 кнігі Старога Запавету агульным аб'ёмам каля 1200 аркушаў. Праз некалькі гадоў Скарына пераехаў у Вільню. Тут у друкарні, арганізаванай у доме бурмістра Я.Бабіча, ён надрукаваў «Малую падарожную кніжку» (каля 1522) і «Апостал» (1525).

Пераемнікамі Скарыны ў бел. кірыліцкім К. былі нясвіжскія кнігавыдаўцы С.*Будны*, М.*Кавячынскі*, Л.*Крышкоўскі*. Яны выпусцілі некалькі кірыліцкіх выданняў, з якіх да нашага часу дайшоў толькі «Катэхізіс» на бел. мове (1562). Пазней выдавецкую дзейнасць ажыццяўляў бел. шляхціц В.М.*Цяпінскі*. Яго друкарня выпусціла адно выданне — «Евангелле», надрукаванае паралельна на царк.-слав. і бел. мовах. Па філігранях і інш. адзнаках можна меркаваць, што кніга выдадзена ў 1570-я г. У 2-й пал. 16 ст. Фёдараў і Мсціславец, асталяваўшыся ў мяст. Заблудаў, выпусцілі ў 1569 «Евангелле вучыцельнае», а Фёдараў у 1570 — «Псалтыр з Часаслоўцам» (гл. *Заблудаўская друкарня*). Тут, магчыма, працаваў і вучань Фёдарава мясц. ўраджэнец Г.*Івановіч*, пазней вядомы майстар па вырабе шрыфтоў. У пач. 1570-х г. друкарня спыніла сваю дзейнасць, Фёдараў пераехаў на

Украіну, дзе арганізаваў друкарні ў Львове і Астрогу. Мсціславец з 1569 асталяваўся ў Вільні, куды яго запрасілі бел. купцы Мамонічы. У віленскай друкарні Мсціслаўца выпушчаны манументальныя прыгожа афармленыя кнігі: «Евангелле напрастольнае» (1575), «Псалтыр» (1576), «Часоўнік» (1574—76?). Дзейнасцю Мсціслаўца і другога віленскага друкара В.М.*Гарабурды* (1580-я г.) фактычна скончыўся перыяд існавання прыватных бел. кірыліцкіх друкарняў. Выключэнне складала прывілеяваная *Віленская друкарня Мамонічаў*, якая дзякуючы супрацоўніцтву выдаўцоў з урадам і уніяцкай царквою працягвала сваю дзейнасць. У ёй надрукаваны першыя ў бел. К. кірыліцкія выданні прававога характару: «Трыбунал» (1586) і «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588). Друкарня праіснавала да пач. 1620-х г., выпусціла больш за 50 кірыліцкіх выданняў і больш за 35 польскамоўных лацінскім шрыфтом.

Важнейшым кірункам у бел. кірыліцкім К. з канца 16 ст. становіцца *брацкае кнігадрукаванне*. Вял. ролю ў развіцці розных сфер бел. культуры, мовы, пісьменнасці адыгралі *Віленская брацкая друкарня, Еўінская друкарня, Куцеінская друкарня, Магілёўская друкарня*. Іх выданні (творы С. і Л. Зізаніяў, Л.Карповіча, М.Сматрыцкага і інш.) выкарыстоўваліся ў ідэалагічных і палітычных мэтах, у палеміцы з прыхільнікамі каталіцтва і царк. уніі. Больш за 70% іх кніг да 1654 выйшла на царк.-слав. і бел. мовах (або царк.-слав. у бел. рэдакцыі), 25 выданняў — на польскай. Непасрэдна на тэр. Беларусі брацкія друкарні не выпускалі кніг на польскай мове. У выніку абмежавання брацкага кнігадрукавання ўрадам Рэчы Паспалітай у 2-й чвэрці 17 ст. адбываецца перамяшчэнне гал. цэнтраў кірыліцкага К. з зах. абласцей ВКЛ ва ўсходнія — у Магілёў і Куцейна. Атрымалі пашырэнне перасоўныя прыватныя друкарні, фактычна цесна звязаныя з брацтвамі. Прыклад узаемасувязі ўсх.-слав. народаў у галіне К. — дзейнасць вандроўнага бел. друкара С.*Собаля*. У 1620-я г. ён заснаваў друкарню ў Кіеве, потым перавёз яе ў Беларусь, у 1637 прывёз для маскоўскага друкара В.Бурцава матрыцы для адлійкі шрыфтоў і інш. друкарскія матэрыялы.

З 2-й пал. 17 ст. ў бел. кірыліцкім К. пачаўся зацяжны крызіс. У тэматыцы К. пабольшала ўдзельная вага літургічных выданняў. Куцеінская друкарня ў сярэдзіне 1650-х г. была пераведзена рас. ўладамі ў Іверскі Валдайскі манастыр пад Ноўгарадам. Дзейнічала толькі брацкая друкарня ў Магілёве. Адноснае развіццё ў гэты час атрымала уніяцкае кірыліцкае К., цэнтр якога ў канцы 17 ст. перамясціўся з Вільні ў Супрасль. З 1-й чвэрці 18 ст. *Супрасльская друкарня* мела манапольнае права на выданне літургічнай уніяцкай л-ры новай царк. рэдакцыі. Новы свецкі змест і змены вонкавага выгляду кнігі характарызуюць яе выданні 2-й пал. 18 ст. на польскай і лацінскай мовах. У 18 ст. Супрасльская друкарня, *Віленская базыльянская друкарня* і *Гарадзенская друкарня* выпусцілі шэраг выданняў для старавераў на ўзор рус. «даніканаўскіх» кніг. З 2-й чвэрці 18 ст. бел. друкарні выдавалі кнігі амаль выключна на царк.-слав., польскай і лацінскай мовах.

Першыя кнігі на літоўскай мове выйшлі ва Усх. Прусіі па ініцыятыве прагрэсіўных колаў літ. грамадства. У 1547 у друкарні Г.Вейнрэйха ў Каралявцы выдадзены складзены М.*Мажвідасам* «Катэхізіс» (уключае катэхізіс, буквар і песеннік). Кёнігсбергскія друкары, якія працавалі ў непасрэднай блізкасці ад ВКЛ, выдавалі літ. кнігі і на працягу 16 ст. Вял. ўклад у развіццё нац. кнігадрукавання зрабіў гуманіст і асветнік М.*Даўкша*, які выдаў у Вільні «Катэхізіс» (1595) і «Пасцілу» (1599). У прадмовах, каментарыях да сваіх выданняў і перакладаў Даўкша падкрэсліваў значэнне друкаванага слова ў развіцці і ўздыме нац. культуры, л-ры, пісьменнасці, сцвярджаў права літ. мовы на самастойнае існаванне. Кнігі на літ. мове выходзілі ў друкарнях М.Пяткявічуса, Я.Маркунаса, але неспрыяльныя грамадска-палітычныя ўмовы і паланізацыя знаці тармазілі развіццё ўласна літ. кнігадрукавання.

У канцы 16—пач. 17 ст. асн. цэнтрам лацінска-польскага друку ВКЛ стала *Віленская акадэмічная друкарня* (да 1586 належала М.К.Радзівілу Сіротку). Яна падпарадкоўвалася езуітам, таму ў яе тэалагічных, рэлігійна-палемічных выданнях выразна адчуваліся контррэфармацыйныя, паланізатарскія тэндэнцыі. Але паколькі друкарня належала навучальнай установе, яна выпускала таксама слоўнікі, падручнікі, навуковую л-ру.

У 16—18 ст. на Беларусі выданні на польскай, лацінскай і інш. мовах выпускаліся гал. чынам рэфармацыйнымі друкарнямі (гл. *Рэфармацыйнае кнігадрукаванне, Ашмянская друкарня, Берасцейскія друкарні, Нясвіжская друкарня, Лоская друкарня, Любчанская друкарня*) і каталіцкімі выдавецтвамі (у Вільні, Бялынічах, Слуцку, Пінску, Нясвіжы, Магілёве, Гродне, Слоніме, Полацку, гл. таксама *Езуіцкае кнігадрукаванне*). Польскамоўныя выданні (пераважна палемічную л-ру і панегірыкі) у 1-й пал. 17 ст. выпускала і Віленскае праваcл. брацтва. У 17—18 ст. кнігі на польскай, лацінскай, французскай і інш. мовах выпускалі уніяцкія друкарні — Супрасльская, Менская, Віленская базыльянская, на яўрэйскай мове (іўрыце) — друкарні Баруха Рома ў Гародні і Вільні. Польскамоўныя і лацінамоўныя выданні ў параўнанні з кірыліцкімі былі больш разнастайнымі па сваёй жанравай структуры і афармленні.

Па падліках А.Анушкіна, друкарні ВКЛ у 16 ст. выпусцілі больш за 320 выданняў на польскай, лацінскай, царк.-слав., бел., літ. і інш. мовах. У наступныя стагоддзі колькасць мясц. выданняў у шмат разоў вырасла. Высокага ўзроўню дасягнула мастацка-паліграфічнае майстэрства. Лепшыя ўзоры кнігапрадукцыі вылучаюцца разнастайнасцю шрыфтоў, шырокім выкарыстаннем наборных упрыгожанняў, арнаменту, фігурных ксілаграфій і медзярытаў.

*Літ.*: Estreicher K., Estreicher S. Bibliografia polska. Cz. 3, t. 12—34. Kraków, 1891—1952; Abramowicz L. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie, 1525—1925. Wilno, 1925; Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525—1925. Мн., 1926; Перлін Г. Да гісторыі яўрэйскага друку на Беларусі // Наш край. 1927. № 8—9; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959; Анушкин А.И. Во славном месте Виленском: Очерки из истории книгопечатания. М., 1962; Яго ж. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Vladimirovas L. Knygos istorija. Vilnius, 1979; Немировский Е.Л.

Иван Федоров в Белоруссии. М., 1979; Я г о ж. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность бел. просветителя. Мн., 1990; Topolska M.B. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renessansu i Baroku. Wrocław, 1984; Кніга Беларусі, 1515—1917: Зводны каталог. Мн., 1986; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI—середине XVII в. Мн., 1989; Я г о ж. Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993.

*Георгій Галенчанка.*

**Кнышын** (польск. Knyszyn, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), мястэчка ў Падляшскім ваяв., на р. Яскранка. Заснаваны ў пач. 16 ст. як сяло ў Бельскім намесніцтве (старастве) канцлерам ВКЛ, старастам бельскім М.Радзівілам, які пабудаваў тут паляўнічы двор, у 1520 фундаваў касцёл. Пасля яго смерці К. у 1526 перайшоў да яго сына біскупа жамойцкага М.Радзівіла. Той у 1528 падараваў К. вял. кн. Жыгімонту Аўгусту (перадача адбылася ў 1530, пасля смерці біскупа). З-за багатых паляўнічых угоддзяў К. стаў улюбёнай рэзідэнцыяй Жыгімонта Аўгуста, які пабудаваў тут драўляны палац (архітэктар Іоб Брэтфус), заклаў вял. парк і звярынец, 18.10.1568 даў К. магдэбургскае права. К. карыстаўся гербам з выявай галавы буйвала. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1572 тут памёр Жыгімонт Аўгуст. Пасля 1536 створана Кнышынскае староства, якім кіравалі С.Дыбоўскі, каронны канцлер Я.Замойскі, С.Віткоўскі, М.Апалінскі. У 1571 Жыгімонт Аўгуст заснаваў у К. Праабражэнскую царкву (пасля уніяцкая). У 1579 Замойскі фундаваў мураваны касцёл св. Яна Евангеліста (асвячоны ў 1601) і шпіталь. У 1655—57 К. разбураны шведамі і прыйшоў у заняпад. У 1660-х г. Кнышынскае староства аддадзена ў заставу за 0,5 млн. злотых братам Арсэці, у якіх яго выкупіў хэлмінскі ваявода Я.Гнінскі і пасля саступіў дзяржаве, за што сойм 1676 дазволіў трымаць староства яму і яго нашчадкам у 7 пакаленнях. У 18 ст. староства трымалі С.Шчука, Чапскія. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.



**Кнышын**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

*Літ.*: Paździor M. Dwór królewski Zygmunta Augusta w Knyszynie // Rocznik Białostocki. Białystok, 1968. T. 8; Hodun S. Knyszyn — krolewskie miasto Podlasia // Wiadomości kościelne archidiecezji w Białymstoku. 1980. № 1; Maroszek J. Knyszyński dworzec królewski // Białostocczyzna. 1993. № 3; Я г о ж. Dolina Nereśli w przeszłości // Там жа. 1997. № 2; Laszuk A. Organizacja starostwa knyszyńskiego w XVII w. // Там жа. 1993. № 3; Chodorowski E. Knyszyńskie szkice historyczne. Knyszyn, 1997.

*Валерый Пазднякоў.*

**княжаты** (адз. лік княжа), нашчадкі ўдзельных князёў, прадстаўнікі феадальнай знаці ў ВКЛ у 15—17 ст. Многія К. захавалі вотчыны з поўным правам распараджэння імі. Частку сваіх зямель яны перадавалі за вайсковую і інш. службу баярам і слугам, якія былі іх васаламі. Некаторыя К. павялічвалі свае ўладанні, стварыўшы буйныя маёнткі (князі Друцкія, Друцкія-Горскія, Друцкія-Саколінскія, Заслаўскія, Мсціслаўскія, Свірскія, Талачынскія, Яраславічы і інш.). Разам з інш. феадаламі выконвалі агульнадзярж. вайсковую службу ў апалчэнні (са сваімі васаламі). Ужо ў 2-й пал. 15 ст. К. разам з панамі-радай склалі магнацкую феад. групу. Да сярэдзіны 16 ст. захоўвалі некаторую незалежнасць ад вял. князя. У апалчэнні атрады (почты) К. ставіліся асобна ад павятовых атрадаў баяршляхты і падпарадкоўваліся сваім К. У 17 ст. тэрмін «К.» знік у сувязі з канчатковым ураўнаваннем шляхецкіх правоў.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Княжыцкі кляштар дамініканцаў.** Заснаваны ў мяст. Княжыцы каля Магілёва ў 1681 харужым ВКЛ Канстанцінам Уладзіславам Пацам. Першапачатковы касцёл быў драўляны. Пасля 1750 пачалося будаўніцтва мураванага касцёла, які асвячоны ў 1780 у гонар св. Антонія Падуанскага. Будаўніцтва кляштарнага корпуса завершана ў 1791. Касцёл мае неглыбокі трансепт, размешчаны пасярэдзіне кафалікона, што надае плану выгляд папарна роўнаканцовага крыжа. Уверсе сцены трансепта з дапамогай магутных арак аб'яднаны ў суцэльны прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты агульным 2-схільным дахам. Унутры яны трактаваны як невялікія пілоны, на якія абапіраюцца падпружныя аркі не толькі ў папярочным, але і ў падоўжным напрамку, утвараючы такім чынам неглыбокія капліцы па баках трансепта. Цэнтр. неф перакрыты больш высокім цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, што дае падставу вызначыць архітэктоніку храма як «схаваную» 3-нефавую крыжовую базіліку. Прамавугольная апсіда прэсбітэрыя, роўнавысокая з цэнтр. нефам, злучаецца з ім крывалінейнымі сценамі, што надае інтэр'еру познабарочны характар. Гал. фасад вызначаецца надзвычайнай экспрэсіяй, вытанчанасцю прапорцый і маляўнічасцю сілуэта. Рытм гарызантальных чляненняў імкліва нарастае ўгору і завяршаецца 3 вежамі: бакавымі і цэнтральнай, якая замяняе звычайны фігурны франтон. Адметнай рысай з'яўляюцца невысокія падпорныя сценкі, пастаўленыя амаль пад прамым вуглом да гал. фасада і вырашаныя ў выглядзе арачных брам, што надае ўсёй кампазіцыі глыбінна-прасторавую дынаміку. У 1832 кляштар скасаваны, у 1863 касцёл зачынены, потым перароблены пад правасл. царкву. Захаваўся ў напаўразбураным стане.

*Тамара Габрусь.*

**Князевіч** (К н я ж э в і ч) Ежы Рыгор (9.1.1737—1804), грамадскі дзеяч, педагог, гісторык. З бел. шляхты. З 1754 езуіт, з 1769 ксёндз. Вучыўся ў езуіцкіх установах у Вільні і Слуцку, у 1759—69 у Варшаве. Выкладаў рыторыку, паэтыку, гісторыю, французскую і нямецкую мовы, геаметрыю ў Варшаўскім (1758—60, 1766—68) і Слуцкім (1763—64) калегіумах, у «Калегіум Нобіліум» у Варшаве (1764—66), выхавальнік у Тышкевічаў. Пакінуў ордэн езуітаў і з 1770 на службе (землямер, навук. дарадца) у віленскага біскупа І.Я.*Масальскага*, які залучыў К. да дзейнасці ў Адукацыйнай камісіі. У 1775 К. стварыў Таварыства элементарных кніг. Выступаў за наданне адукацыі практычнага характару, вывучэнне ў школах сельскай гаспадаркі і ветэрынарыі, супраць клерыкалізму, рэлігійнай нецярпімасці, забабонаў. У 1777 пакінуў камісію. Пасля смерці Масальскага (1794) апынуўся ў нястачы, дамогся пенсіі ад цара Паўла І. Памёр у Вільні. Асн. творы і пераклады К. прысвечаны сельскай гаспадарцы і гісторыі. Пераклаў на польскую мову «Сельскагаспадарчы каляндар» Р.Брэдлі, ананімную кнігу «Фальварак, у якім землі ніколі не застаюцца пад папарам» (абедзве Вільня, 1770), у 1801 выдаў у Вільні «Гаспадарскі дзённік» у 2 т. і «Развагі аб кандуктарах ці матэрыі маланкі, або Аб засцярозе ад маланак». У галіне гісторыі пераклаў на польск. мову кнігі Ж.Лекома «Гісторыя мінулых змен у расійскай дзяржаве» (Варшава, 1766) і Л.Мураторы «Жыццё Юзафа Бальзамо, вядомага пад імем граф Каліёстра (Вільня, 1793). З рус. мовы пераклаў кнігі «Гісторыя генерала Банапарта» (Вільня, 1793) і «Дадатак замест заўваг да твора... «Жыццё, дзеянні і выдаленне Банапарта». Арыгінальныя гіст. творы К. (шматтомная «Гісторыя Еўропы ад амерыканскай вайны», «Гісторыя жыцця біскупа Масальскага») не захаваліся.

*Валерый Пазднякоў.*

**Князевіч** Кароль Ота (4.5.1762, Асітэн, Курляндыя—9.5.1842), вайсковы дзеяч. З бел. шляхты. У 1771 сям'я К. пераехала пад Варшаву. У 1774—77 вучыўся ў Варшаўскай рыцарскай школе. Вайсковую службу пачаў падафіцэрам у каронnай артылерыі. Служыў у Беластоку, Седльцах, на Падоллі.



К.О.**Князевіч**.

Удзельнічаў у абарончай вайне з Расіяй у 1792, у бітве пад Дубенкай прыкрываў адыход войск Т.Касцюшкі. У *паўстанні 1794* удзельнічаў у бітвах пад Хелмам, Голкавам, Варшавай. Атрымаў званне ген.-маёра. У *Мацяёвіцкай бітве 1794* камандаваў левым крылом, трапіў у палон. Вызвалены 7.11.1794, выехаў у Італію, дзе ўдзельнічаў у баявых дзеяннях на баку Напалеона як генерал брыгады. У 1800 удзельнічаў у вайне супраць Аўстрыі. У 1801 выйшаў у адстаўку, жыў на Валыні. Адмовіўся ад прапановы А.Чартарыйскага і цара Аляксандра І стварыць польскую армію ў Рас. імперыі. У 1812 зноў паступіў на службу ў напалеонаўскую армію, генерал дывізіі ў штабе Жэрома Банапарта. У Гродне прыняў камандаванне 18-й дывізіяй. Ваяваў пад Смаленскам, Барадзіном, у бітве на Бярэзіне прыняў камандаванне корпусам пасля ранення генералаў Ю.Заёнчка і Я.Г.Дамброўскага, таксама паранены і потым у баявых дзеяннях не ўдзельнічаў. У сак. 1813 зноў далучыўся да войска ў Кракаве, але хутка выйшаў у адстаўку ў знак пратэсту супраць польскай палітыкі Напалеона. Інтэрніраваны аўстрыйскімі ўладамі. У 1814 па прапанове Аляксандра І увайшоў у Вайсковы камітэт для арганізацыі арміі Каралеўства Польскага, з 1815 у адстаўцы. Жыў у Дрэздэне. У час паўстання 1830 пасланы паўстанцкімі ўладамі ў Парыж, каб атрымаць падтрымку ад Францыі, але вынікаў не дамогся. Застаўся ў Парыжы.

*Валерый Пазднякоў.*

**князь**, прадстаўнік вышэйшай арыстакратыі ў славян і некаторых іншых народаў, уладар *княства*. Першапачаткова К. — ваенны і часткова сакральны правадыр племя на протадзяржаўнай стадыі (т.зв. ваеннай дэмакратыі). У гэтым сэнсе славянскі К. адпавядаў германскаму конунгу, балцкаму кунігасу, цюркскаму хану. Тытул К. перадаваўся ў спадчыну і звычайна не мог быць набыты інакш, чым праз нараджэнне ў сям'і К. Улада К. магла быць спадчыннай або выбарнай, але выбар ажыццяўляўся сярод асоб, якія мелі княжацкі тытул. Адносіны паміж К. маглі будавацца на ўмовах васалітэту. З утварэннем Кіеўскай Русі вярхоўную ўладу манапалізаваў княжацкі род *Рурыкавічаў*, з утварэннем ВКЛ — літоўскі род *Гедзімінавічаў*. У ВКЛ нашчадкі Рурыкавічаў і літоўскіх княжацкіх родаў, выхадцаў з татарскіх ханаў і замежнай тытулаванай знаці карысталіся княжацкім тытулам, хоць не заўсёды займалі вышэйшыя месцы ў дзярж. іерархіі і мелі ўласныя княствы. З развіццём феад. грамадства на працягу 15—16 ст. становішча К. ў ВКЛ (за выключэннем кіраўніка дзяржавы — *вялікага князя*) набліжалася да становішча нетытулаванай феад. знаці — паноў і шляхты. Працэс разрастання і драблення княжацкіх родаў вёў да дэвальвацыі тытула. З 1554 гэты тытул не даваў сац. і юрыд. пераваг у параўнанні са шляхтай. Каб вылучыцца з масы К., найбольш заможныя з іх, у т.л. родзічы вял. К., ужывалі тытул *княжаты*. З другога боку, самыя заможныя з нетытулаваных магнатаў — Радзівілы — у 1-й пал. 16 ст. набылі ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі ганаровы тытул імперскіх К., якім карыстаюцца і цяпер. У 18 ст. такі ж тытул набылі Сапегі. З 18 ст. практыка надання княжацкіх тытулаў замацавалася таксама ў Рас. імперыі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Князьнін** Францішак Дыянізы (4.10.1749 або 1750, г. Віцебск—25.8.1807), паэт, драматург, перакладчык; прадстаўнік сентыменталізму. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. Скончыў Віцебскі езуіцкі калегіум



Ф.Д.**Князьнін**.

(1764). У 1764—70 вучыўся ў Полацку, Нясвіжы, Слуцку. З 1770 у Варшаве. З 1775 сакратар князя А.К.Чартарыйскага, з 1783 прыдворны паэт Чартарыйскіх у Пулавах. У зборніку «Песні» («Carmina», 1781) пераклады Гарацыя, «Трэнаў» Я.Каханоўскага, оды і элегіі на лацінскай мове. Аўтар зборніка «Байкі» (1776) на ўзор Ж.Лафантэна, «Эротыкі» (т. 1—2, 1779) у духу анакрэантычнай паэзіі, «Вершы» (1783) з элементамі стылю ракако. У зборніку «Паэзія» (т. 1—3, 1787—89) любоўна-ідылічная, палітычная (у т.л. вершы «Да Тадэвуша Касцюшкі»), рэлігійная лірыка. Аўтар гераічна-патрыятычных п'ес «Маці-грамадзянка», «Гектар», «Фемістокл» і лібрэта опер. Опера «Цыганы» на яго лібрэта (музыка М.К.*Агінскага*) ставілася ў *Слонімскім тэатры Агінскага* (1786). Цікавіўся бел. фалькторам і выкарыстоўваў яго ў сваіх творах. Збіраў бел. прыказкі, зрабіў фальклорныя запісы з «польска-рускага паграніччa». Некаторыя героі яго твораў (казак Захарэнка ў камедыі «Тры вяселлі») гавораць на ламанай бел. мове. Паводле М.Федароўскага, верш К. «Кросенкі» ў канцы 19 ст. выконваўся на Беларусі як нар. песня. У некаторых вершах услаўляў край свайго маленства — Віцебшчыну. На бел. мову асобныя творы К. пераклалі А.Жлутка, Н.Мерашчак, Л.Семянюк.

*Тв.*: Utwory dramatyczne. Warszawa, 1958; Wiersze wybrane. Warszawa, 1981; Carmina. Wratislaviae, 1994; Бел. пер. — Элегія да Бацькаўшчыны // Віцебскі сшытак. 1995. № 1.

*Літ.*: Kostkiewiczowa T. Kniaźnin jako poeta liryczny. Wrocław, 1971; Brzeziński J. Język Franciszka Dionizego Kniaznina. Zielona Góra, 1975; Głębicka E.J. Łacińska poezja Franciszka Dionizego Kniaźnina. Wrocław etc., 1993; Mazurkowa B. Literacka rama wydawnicza dzieł Franciszka Dionizego Kniaźnina: (na tle porównawczym). Katowice, 1993.

**княства**, дзяржаўнае ўтварэнне з пэўным узроўнем суверэнітэту ці аўтаноміі, якое кіравалася *князем*; феад. ўладанне князя. Ва ўсх. славян племянныя К. (летапісныя княжанні) узніклі яшчэ на пераддзярж. стадыі. На тэр. Беларусі ў 9—10 ст. існавалі К. палачан, дрыгавічоў, радзімічаў. У 2-й пал. 10 ст. ўтварыліся К. Рагвалода і Тура (?). З узнікненнем Кіеўскай Русі ўводзіліся К.-намесніцтвы, якімі кіравалі бліжэйшыя родзічы кіеўскага князя. Часта іх тэрыторыя супадала з тэрыторыяй колішніх племянных К. Пазней за імі замацавалася назва «землі». Па меры разрастання дынастыі Рурыкавічаў у 11—12 ст. асобныя яе галіны (напр., Ізяславічы) замацавалі ўладу над такімі К. як над сваімі вотчынамі. Дэцэнтралізацыя палітычнай улады ў Кіеўскай Русі зрабіла ў 12 ст. К.-землі самастойнымі. На Беларусі гэта былі Полацкае і Тураўскае К. Са складу К.-зямель вылучаліся ўдзельныя К., якія былі часовымі ці пажыццёвымі ўладаннямі асобных прадстаўнікоў княжацкай галіны. З цягам часу яны таксама ператвараліся ў вотчыны, што вяло да далейшага драблення тэр. структуры. У 12—14 ст. існавалі: Ваўкавыскае, Віцебскае, Галіцка-Валынскае, Гарадзенскае, Давыд-Гарадоцкае, Друцкае, Ізяслаўскае, Капыльскае, Кіеўскае, Клецкае, Кобрынскае, Крэўскае, Лагожскае, Лукомскае, Менскае, Мсціслаўскае, Навагародскае, Пінскае, Полацкае, Свіслацкае, Слуцкае, Смаленскае, Тураўскае, Уладзіміра-Валынскае, Чарнігаўскае К. (гл. адпаведныя артыкулы). З канца 14 да 1-й пал. 16 ст. частка іх ператворана ў намесніцтвы, ваяводствы і паветы, частка раздрабнілася на асобныя маёнткі. Адм.-тэр. рэформа 1565—66 афіцыйна скасавала К. як тэр. адзінкі ВКЛ, але назва К. працягвала традыцыйна ўжывацца ў 17—18 ст. у дачыненні да Клецкага, Капыльскага і Слуцкага К., якія захавалі адносную тэр. кампактнасць, хоць фактычна былі вялізнымі магнацкімі вотчынамі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Кобрын** (цяпер горад, цэнтр Кобрынскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Берасцейскім ваяв., на р. Мухавец. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1287 як уласнасць уладзіміра-валынскага князя Уладзіміра Васількавіча. З 1-й пал. 14 ст. ў складзе ВКЛ, на месцы стараж. дзядзінца і пасада ў 14—18 ст. існавалі *Кобрынскія замкі*. Горад упамінаецца ў *дагаворы 1366* як уласнасць вял. князя літоўскага *Альгерда*, потым замацаваўся за яго сынам Фёдарам Ратненскім і ўнукам Раманам Фёдаравічам (каля



Герб **Кобрына**. 1589.

1404), родапачынальнікам князёў *Кобрынскіх*. Пасля смерці Сямёна Раманавіча К. належыў удаве княгіні Ульяне, сыну Івану Сямёнавічу і яго жонцы Фядоры (да 1512), якія фундушамі падтрымлівалі *Кобрынскі Спаскі манастыр* (вядомы з 1465). З 15 ст. вядома Петрапаўлаўская царква, на мяжы 17—18 ст. пабудавана Георгіеўская царква. У 1-й пал. 16 ст. тут пабудаваны касцёл. Пасля смерці княгіні Ганны Сямёнаўны ў 1519 княства Жыгімонтам I Старым было ператворана ў староства, якое ў пажыццёвае ўладанне атрымаў Вацлаў Касцевіч, муж памерлай княгіні. У 1532 уладальніцай К. стала жонка Жыгімонта I Старога Бона Сфорца, пры якой юрыдычна аформілася *Кобрынская эканомія*, пачаліся меліярацыйныя работы (канал каралевы Боны). У 1520—66 цэнтр *Кобрынскага павета* Падляшскага ваяв., з 1566 у складзе Брэсцкага ваяв. Паводле рэвізіі 1563, у К. 377



двароў, асн. вуліцамі былі Астрамецкая, Балоцкая, Берасцейская, Пінская, Ратненская, Чаравачыцкая. У 1586 К. адышоў дачцэ каралевы Боны Ганне Ягелонцы, пры якой горад у 1589 атрымаў магдэбургскае права і герб — у сярэбраным полі выявы святых Ганны і Марыі з немаўлём Ісусам на руках. У пач. 17 ст. ў К. пражывала больш за 1500 чал., каля 500 дамоў. У 1605—35 горадам валодала Канстанцыя, жонка Жыгімонта III. У 1626 у горадзе адбыўся *Кобрынскі сабор 1626*. У час антыфеад. вайны 1648—51 каля К. адбыўся бой паміж атрадамі атамана Максіма Гладкага і драгунамі Вінцэнта Гасеўскага. Горад моцна пацярпеў у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночную вайну 1700—21* і доўгія гады знаходзіўся ў заняпадзе. У 1766 пазбаўлены магдэбургскага права, рэарганізацыяй гаспадаркі займаўся паскарбі надворны літоўскі А.*Тызенгаўз*. У 1784 у горадзе знаходзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які накіроўваўся на адкрыццё *Каралеўскага канала*. У вер. 1794 К. заняты войскамі А.В.Суворава, адбыўся *Крупчыцкі бой 1794*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Кобрынскага р-на. Мн., 2002.

***Валерый Грынявецкі.***

**Кобрынскае княства**, феадальнае княства ў басейне рэк Мухавец і Кобрынка. Цэнтр — г. *Кобрын*. Узнікла каля 1404 у выніку падзелу ўладанняў князя Фёдара Ратненскага (сына вял. князя літоўскага Альгерда) паміж яго сынамі Сангушкам (родапачынальнік князёў *Сангушкаў*) і Раманам (родапачынальнік князёў *Кобрынскіх*). На працягу 15 ст. самастойная адм.-тэр. і судовая акруга ў складзе ВКЛ. Падзялялася на Кобрынскую і Прушанскую (Пружанскую) воласці. У пач. 16 ст. ў сувязі са згасаннем роду князёў Кобрынскіх К.к. скасавана, а яго тэрыторыю вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт І Стары ў 1519 у якасці старaства перадаў у пажыццёвае валоданне маршалку ВКЛ В.Косцевічу, мужу Ганны Сямёнаўны Кобрынскай (Бельскай). Пасля яго смерці ў 1532 старaства ў якасці павета далучана да Падляшскага ваяв., у 1566 увайшло ў Берасцейскі павет.

**Кобрынская эканомія**, каралеўская гаспадарка ў ВКЛ у 16—18 ст. Фактычна ўзнікла ў 1519 як старaства, аддадзенае ў дзяржаву. Юрыдычна аформілася ў 1532, калі каралева Бона атрымала ад Жыгімонта І Старога правы на Кобрынскае старaства. Уваходзіла спачатку ў Падляшскае, з 1566 — у Берасцейскае ваяв. Канчаткова К.э. як «сталовае» ўладанне выдзелілася паводле «Ардынацыі аб каралеўскіх прыбытках» 1589 у выніку падзелу паміж дзярж. і каралеўскім скарбам. Апрача Боны ў 16—17 ст. К.э. валодалі каралевы Ганна Ягелонка, Канстанцыя Аўстрыйская. У 1549, 1563, 1597 праводзіліся рэвізіі эканоміі, матэрыялы якіх з'яўляюцца каштоўнай гіст. крыніцай. На 1563 у К.э. было 89 валок фальварковай ворнай зямлі і 612 валок, замацаваных за цяглымі сялянамі. Уключала гарады Кобрын, Дабучын (Пружаны), мяст. Гарадзец. Лепшая арганізацыя працы, інтэнсіфікацыя гасп. вытв-сці, асваенне новых зямель (меліярацыя, высяканне лясоў) у спалучэнні з узмацненнем эксплуатацыі сялян павысілі даходнасць эканоміі пад канец 17 ст. амаль у 8 разоў. З пач. 18 ст. К.э. аб'ядноўваецца з *Берасцейскай эканоміяй*, яны разам выступаюць у інвентарах, рэвізіях, кантрактах, маюць агульную адміністрацыю і рахункі. У 1757 Я.Флемінг атрымаў Берасцейска-Кобрынскую эканомію ў трыманне на 6 гадоў. Замест падзелу на воласці (Кобрынская, Блудзенская, Вежацкая, Гарадзецкая, Дабучынская, Чаравачыцкая) і войтаўствы адбыўся падзел на губерні і ключы, да якіх дапісваліся яшчэ асобныя вёскі, фальваркі і інш. Кобрынская губерня ўключала 8 ключоў: Кобрынскі (г. Кобрын і Агароднікі Кобрынскія, вёскі Дубовая, Лахчыцы, Лягаты, Паляцічы, Патрыкі, Плоскае, Рухавічы, Сухоўчыцы і Хідры, фальваркі Гарыздрычы і Залессе), Вежыцкі (вёскі Агароднікі Вежыцкія, Глінянкі, Лышчыкі, Мацясы, Песцянькі і Стаўпы), Гарадзецкі (мяст. Гарадзец, вёскі Асмаловічы, Вуглы, Грушава, Камень Каралеўскі, Худлін і Чалішчавічы), Закросніцкі (вёскі Астромеч, Быстрыца, Закросніца, Сялец і Турна), Ліцвінкаўскі (вёскі Вострава, Клешчы, Ластаўка, Ліцвінкі і Пруска), Ілоўскі (вёскі Баршчы, Бярэзна, Засімы, Ілоўск, Лышчыкі і Стры), Тэвельскі (вёскі Залессе, Мацы, Рымкі і Тэўлі), Чаравачыцкі (вёскі Агароднікі Чаравачыцкія, Батчы, Глінянкі, Мельнікі, Пяркі, Пяскі, Шыпавічы і Якаўчыцы), да якога яшчэ былі прыпісаны фальварак і сяло Шматы, фальваркі Адамкаў, Пельчыцы і Фаўстынаў, с. Плоскае. Вaен. дзеянні, агульны гасп. заняпад прывялі да скасавання ў 1766 самакіравання, але К.э. захавалася. Яе рэарганізацыяй заняўся ў 1768 А.*Тызенгаўз*, аднак скарачэнне колькасці насельніцтва, прыцягненне значных сіл да будаўніцтва *Каралеўскага канала*, агульнае палітычнае пагаршэнне сітуацыі ў краіне не далі станоўчых вынікаў. У 1795 К.э. ўвайшла ў склад Рас. імперыі. Землі эканоміі з сялянамі былі падараваны, часткова прададзены прыватным асобам.

*Літ.*: Kościałkowski S. Ze studjów nad dziejami ekonomji królewskich na Litwe. Wilno, 1914; Wysłouch S. Rozwój granic i terytorjum powiatu Kobryńskiego do połowy XVI wieku // Ateneum Wileńskie. 1929. Z. 1—2; Улащик Н.Н. Кобринская экономия после проведения волочной померы // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1957. Т. 15; Плиско Н.М., Козлов Л.Р. Кобрин: Ист.-экон. очерк. Мн., 1987; Кітурка І. Нескарыстаная альтэрнатыва развіцця Берасцейскай і Кобрынскай эканомій у другой палове 18 ст. // Гістарычны альманах. Гародня, 2001. Т. 5.

***Леў Казлоў.***

**Кобрынскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Папярэднікам К.п. было *Кобрынскае княства*. Пасля смерці ў 1490 князя Івана Сямёнавіча згас па мужчынскай лініі род князёў Кобрынскіх. Княства засталося ў пажыццёвым карыстанні ўдавы Фядоры. Двары Чаравачыцы і Грушавое адышлі ў якасці вена да мачахі памерлага князя Ульяны, пасля яе смерці — уласнасць Сангушкаў. Уладальнікам асн. часткі княства ў 1492 стаў другі муж Фядоры Юрый Пацавіч (памёр у 1506), у 1508 — трэці муж Мікалай Радзівіл (памёр у 1509). Пасля смерці Фядоры ў 1512 княства перайшло ва ўладанне апошняй прадстаўніцы роду Кобрынскіх — князёўны Ганны Сямёнаўны, якая была замужам за Венцлавам Косцевічам. Пасля яе смерці ў 1519 уладанні Кобрынскіх былі ператвораны ў Кобрынскае старaства (гл. *Кобрынская эканомія*). Разам з Чаравачыцамі і Грушавам, а таксама маёнткамі, якія ў папярэднія часы былі падараваны князямі Кобрынскімі сваім васалам (Бухавічы, Імянін,



Камень, Патрыкі, Прышыхвосты і інш.) і *Кобрынскаму Спаскаму манастыру* (Корчычы), яны ўтварылі К.п. у складзе Падляшскага ваяводства. Косцевіч атрымаў пажыццёва статус кобрынскага намесніка. 33 былыя васалы князёў Кобрынскіх у 1528 выстаўлялі ў войска 62 коннікаў, 18 баяр ішлі ў войска асабіста, 14 коннікаў выстаўлялі 8 баяр з Чаравачыц і Грушава. У 1532 Кобрынскае старасства перайшло да каралевы Боны, якая далучыла да яго Чаравачыцы і Грушава, адсудзіўшы іх у Сангушкаў. У 1534 праведзена праверка правоў на зямлю былых васалаў Кобрынскага княства, тыя з іх, хто вытрымаў праверку, атрымалі статус паўнапраўнай шляхты. К.п. праіснаваў да адм. рэформы 1565—66, у выніку якой далучаны да *Берасцейскага павета*. Паўторнае стварэнне К.п. прадугледжвалася соймавай канстытуцыяй 1791, аднак яе хуткае скасаванне не дало магчымасці яго стварыць.

*Літ*.: Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 г. королевским ревизором Дмитрием Сапегою. Вильна, 1881; Пичета В.И. Проверка прав на землю во владениях королевы Боны // Сб. статей по русской истории, посвященных С.Ф.Платонову. Пг., 1922.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кобрынскі сабор 1626**, сабор уніяцкага духавенства Рэчы Паспалітай. Скліканы каралём Жыгімонтам III і уніяцкім мітрапалітам І.*Руцкім* для прымірэння праваслаўных і грэка-католікаў. Але непрыняцце гэтай ідэі рымскай курыяй і кіраўніцтвам правасл. царквы Рэчы Паспалітай зрабіла правядзенне аб'ядноўчага сабора немагчымым. У вер. 1626 у Кобрыне адбыўся толькі сабор грэка-каталіцкага вышэйшага і сярэдняга кліра на чале з Руцкім. К.с. прыняў пастанову пра адкрыццё уніяцкай семінарыі для падрыхтоўкі духавенства (існавала ў 1650-я г. пры Менскім базыльянскім манастыры), асудзіў сімонію (набыццё царк. пасад за грошы), пацвердзіў аўтаномію базыльянскага ордэна ў царкве і забараніў вышэйшаму беламу духавенству займаць у ім пасады, абавязаў епіскапаў і протаархімандрыта (генерала) базыльян даваць штогадовыя справаздачы мітрапаліту, а апошняга — Кангрэгацыі прапаганды веры ў Рыме. Вырашана склікаць агульныя царк. саборы кожныя 4 гады. Рашэнні К.с. з шэрагам змен і прапаноў зацверджаны папам Урбанам VIII у 1629.

*Літ*.: Стрельбицкий И. Униатские церковные соборы... Вильна, 1888; Рудович І. Кобринський синод 1626 р. // Богословія. Львів, 1924. Т. 1, кн. 1; Historia Kościoła w Polsce. T. 1, cz. 2. Poznań; Warszawa, 1974; Плохий С.Н. Папство и Украина. Киев, 1989.

***Сяргей Казуля.***

**Кобрынскі Спаскі манастыр**. Вядомы ў г. *Кобрын* з 1465. Пасля Берасцейскай уніі 1596 манастыр стаў уніяцкім, належаў ордэну базыльян, меў свайго архімандрыта, некаторы час падпарадкоўваўся непасрэдна літ. правінцыялу, у 1713 архімандрыя аднаўлена. Тут праходзіў *Кобрынскі сабор 1626*. У 17—18 ст. неаднаразова перабудоўваўся. Захаваўся жылы корпус — мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане, накрыты высокім ламаным дахам будынак у стылі барока. Сіметрычны гал. фасад вылучаны цэнтр. рызалітам, завершаным фігурным атыкавым франтонам. Фасады раскрапаваны пілястрамі і фігурнымі філёнгамі вакол прамавугольных аконных праёмаў. Па версе сцен праходзіць развіты карніз. У інтэр'еры пры ўваходзе шырокая аднамаршавая лесвіца. Пачатковая планіроўка зменена ў 1920-я г. У інтэр'еры зберагліся элементы барочнага дэкору. Таўшчыня сцен 1,2 м, у сутарэннях больш за 2 м. Перакрыцці над паверхамі плоскія бэлечныя, над склепам — цыліндрычныя скляпенні. Пасля скасавання уніяцкай царквы ў 1839 манастыр зачынены.

***Тамара Габрусь.***

**Кобрынскія замкі**. Існавалі ў г. *Кобрын* у 14—18 ст. у сутоках Кобрынкі і Мухаўца, відаць, на месцы былых дзядзінца і вакольнага горада. Паводле інвентароў 16 ст., умацаванні Кобрына складаліся з драўляных Ніжняга («прыгародак») і Верхняга (Высокага) замкаў. На падыходзе да Ніжняга замка шлях перагароджвала Кобрынка, цераз якую быў мост. На яго траплялі праз вежу-браму. На другім канцы моста (апошні яго пралёт быў пад'ёмны) стаяла другая 2-павярховая вежа-брама. Ніжні замак ахоўваўся 5 вежамі, гароднямі і парканам. У адной з вежаў размяшчаўся млын. Шлях у Верхні замак ішоў праз вежу-браму і мост цераз абарончы роў, што раздзяляў замкі. Мост быў на палях з лазняй пасярод і ўпіраўся ў вежу-браму Верхняга замка. Размешчаны ў ёй пад'ёмны механізм падымаў перад брамай апошні пралёт моста. Акрамя брамы тут стаялі яшчэ 4 вежы з гароднямі і парканам, на якіх размяшчаліся баявыя пляцоўкі — бланкаванне са стрэшкамі, крытымі дранкай. Усе вежы былі накрыты гонтай. У 1597 узбраенне К.з. складалася з 2 гармат, 5 серпанцінаў, 16 гакаўніц, 17 ручніц, 2 кіёў, захоўваліся сера, свінец і інш. Замкі разбурыліся ў 18 ст., драўляныя насыпы знесены ў 1840-я г. пры пракладцы Маскоўска-Варшаўскай шашы.

**Кобрынскія**, княжацкі род герба «Пагоня». Паходзілі ад вял. князя літоўскага Альгерда, які ў *дагаворы 1366* пазначаны як уладар г. *Кобрын*. Мабыць, непасрэдна ад Альгерда горад з навакольнымі землямі перайшоў да яго сына Фёдара Ратненскага (упамінаецца ў дакументах 1387—94, валодаў у асн. землямі на Чырвонай Русі), які меў сыноў Гурку, Сангушку (родапачынальнік князёў *Сангушкаў*) і Рамана — родапачынальніка князёў К.



Да арт. **Кобрынскія**. Пячатка князя Рамана Фёдаравіча. 1387.

Раман Фёдаравіч (?—пасля 1417), сын Фёдара Альгердавіча Ратненскага. Упамінаецца ў дакументах з 1387. У 1393 узначальваў войска наўгародцаў у паходах на ўладанні вял. князя маскоўскага Васіля I, у 1394 — пад Пскоў. У 1404 вял. князь Вітаўт выдаў Раману Фёдаравічу грамату на валоданне Кобрынам і навакольнымі маёнткамі (Грушава, Несухаіжы, Міланавічы і інш.; гл. *Кобрынскае княства*), што магло быць пацвярджэннем правоў на дзедзічныя ўладанні. У 1411—17 Раман Фёдаравіч пры двары польскага караля Ягайлы.

Сямён Раманавіч (?—каля 1460), сын Рамана Фёдаравіча. У 1431 дапамагаў вял. князю Свідрыгайлу бараніць Луцк ад войск Ягайлы. Жанаты з дачкой князя Сямёна Гальшанскага Ульянай.

Іван Сямёнавіч (?—каля 1490), сын Сямёна Раманавіча. Зрабіў шмат наданняў цэрквам Кобрыншчыны, у 1473 — царкве Божага Нараджэння ў Дабучыне (Пружанах). Апошні мужчынскі прадстаўнік роду К. Пасля яго смерці Кобрынскае княства пакінута вял. князем літоўскім і каралём польскім Казімірам IV Ягелончыкам яго ўдаве Фядоры Іванаўне з роду Рагацінскіх, якая ў 1500 прыняла каталіцкую веру з імем Соф'я (памерла ў ліп. або жн. 1512).

Марыя Сямёнаўна (?—каля 1510), дачка Сямёна Раманавіча. Жонка маскоўскага князя Івана Васілевіча Краснага.

Ганна Сямёнаўна (?—люты або сак. 1519), дачка Сямёна Раманавіча. У 1481 выдадзена замуж за князя Фёдара Уладзіміравіча Бельскага, які пасля шлюбу ўцёк у Маскоўскую дзяржаву з-за выкрыцця яго ўдзелу ў змове супраць Казіміра IV. Да 1502 выйшла замуж за Венцлава (Вацлава) Станіслававіча Косцевіча. З 1512 трымала Кобрынскае княства, якое пасля яе смерці перайшло да мужа.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 162—168.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ковель** (укр. Ковель, цяпер горад, цэнтр Ковельскага р-на Валынскай вобл., Украіна), горад у Валынскім ваяв., на р. Тур'я (прыток Прыпяці). Вядомы з 14 ст., пабудаваны замак. З 15 ст. належаў Сангушкам. 24.12.1518 горад атрымаў магдэбургскае права (пацвярджалася ў 1611, 1635). У 1543 В.Сангушка перадаў каралеве Боне ковельскі маёнтак, атрымаўшы ўзамен Горваль каля Рэчыцы і Смаляны і Абольцы ў Віцебскім ваяв., адначасова стаў трымальнікам Свіслацкага старасства (да 1552). У 1547 у К. натуральная рэнта была заменена грашовай — па аднаму чырвонцу з кожнага будынка. У 1556 выдадзена каралеўская грамата, якая дазваляла мясцовым рамеснікам ствараць цэхі; у К. праводзіліся 2 кірмашы на год. У 1564 вял. князь ВКЛ Жыгімонт Аўгуст перадаў К. разам з інш. пасяленнямі на Валыні А.*Курбскаму*. Пасля яго смерці К. некаторы час належаў яго жонцы, потым каралеўскае ўладанне. Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 17 ст. буйны эканам. і гандлёвы цэнтр зах. Валыні. У антыфеад. вайну 1648—54 горад трымаў у аблозе загон палкоўніка Калодкі. У 1775 Станіслаў Аўгуст перадаў К. у валоданне кракаўскаму ваяводу Жавускаму. Паводле інвентара 1790, у К. больш за 400 дамоў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***



**Ковенская ратуша**.

**Ковенская ратуша.** Пабудавана ў г. *Коўна* пасля атрымання горадам магдэбургскага права. Першапачаткова была драўляная, мураваны будынак узведзены ў 1542 сярод рыначнай плошчы ў гатычным стылі паводле праекта віленскага архітэктара Бенядзікта Хайноўскага. Напэўна, да 1562 была аднапавярховая, бязвежавая і неатынкаваная. Тарцовыя фасады завяршаліся франтонамі. У 2-й пал. 16 ст. надбудаваны 2-і паверх, да ўсх. фасада прыстаўлена вежа. Памяшканні 1-га паверха былі прызначаны для гандлю і аховы гар. вязніцы, 2-га — для магістрата, суда, канцылярыі, скарбу, архіва. Сутарэнні асн. аб'ёму былі прыстасаваны для захоўвання тавараў, а вежы — пад вязніцу. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. ратуша была 2-павярховая з 8-ярусной вежай па восі гал. фасада, рэгулярным рэнесансавым размяшчэннем вокнаў, з франтонамі і эркернымі вежачкамі на зах. фасадзе (не захаваліся). У 1638 зроблена перабудова. Моцна пашкоджана ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У канцы 17—1-й пал. 18 ст. значна перапланавана і аднаўлена ў барочным стылі. У 1771—80 рэканструявана паводле праекта Яна Матэкера, пасля чаго ўяўляла сабой сінтэз гатычнай, познабарочнай і ранне-класічнай архітэктуры. У 1824 прыстасавана пад правасл. царкву, потым — пад сховішча артылерыйскіх боепрыпасаў. У 1836—38 праведзена рэканструкцыя паводле праекта К.Падчашынскага пад царскую рэзідэнцыю. У 1850 вежу прыстасавалі для патрэб гар. пажарнай службы. У 1865—69 тут дзейнічаў гар. тэатр. У 1885 і 1897—1900 абноўлены фасады. У 1869—1944 тут размяшчаліся розныя гар. ўстановы, у пасляваенны час прыстасавана пад архіў. У 1951—60 належала ф-ту будаўніцтва і архітэктуры Каўнаскага політэхнічнага ін-та. У 1969—73 праведзена рэстаўрацыя паводле праекта Ж.Сіманавічуса. Часткова аднаўлена планіроўка і аздоба інтэр'ераў 16—19 ст. На фасадах экспануюцца фрагменты муроўкі эпохі готыкі і рэнесансу.

*Літ.*: Pilipaitis A. Kauno rotušė. Vilnius, 1961; Kauno architektūra. Vilnius, 1991.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Ковенскі «Дом Пяркунаса»**, помнік грамадзянскай архітэктуры ў г. *Коўна*. Пабудаваны ў канцы 15—1-й пал. 16 ст. як кантора-склад ганзейскіх купцоў. Упершыню згадваецца ў 1546 як прыватны будынак, да 1575 належаў нямецкаму купцу Бярнарду Бітнеру, затым Бярнарду Фарэнгейту і інш. У 1634 перайшоў ва ўладанне лютэран. У 1670 яны прадалі будынак езуітам, ён перароблены пад капліцу. З 1722 тут размяшчаліся класы калегіума. У 1-й пал. 19 ст. выкарыстоўваўся як складское памяшканне. У 1843—65 у ім дзейнічаў гар. тэатр. Першапачаткова складаўся з 2 карпусоў, адзін з якіх быў складскім памяшканнем (разбураны ў 18 ст.). Корпус, які захаваўся, — 2-павярховая з сутарэннямі гатычная пабудова, накрытая 2-схільным дахам; мае план асіметрычнай формы. На абодвух паверхах падзелена мурамі на 3 часткі.





Ковенскі «Дом Пяркунаса».

Рэпрэзентацыйныя памяшканні былі на 2-м паверсе. На яго вядуць вонкавыя прамыя ўсходы. Асвятляліся з усх. і паўд. бакоў праз вокны прамавугольнай формы, акцэнтаваныя фігурнай цэглай. Пасля рэканструкцый будынка 17—18 ст. гал. фасад застаўся без змен. Ён выкананы ў традыцыях познагатычнай архітэктуры. У аздобе франтона выкарыстана 16 тыпаў прафіляванай цэглы. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 549.

*Літ.*: Zareckenė D. Perkūno namas Kaune: (tyrumai ir restauravimas) // Architektūros paminklai. Vilnius, 1972. T. 2; Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1987. T. 1. P. 156—158; Янкявичене А.С. Принципы и средства композиции фасадов готических жилых домов Литвы // Архитектурное наследство. М., 1984. Вып. 32.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Ковенскі езуіцкі калегіум.** Існаваў у г. *Коўна* ў 17—18 ст. Першапачаткова езуіты трымалі тут місію (1642—46) і рэзідэнцыю (1646—53). Школа адчынена ў 1649, калегіум — у 1653, месціўся ў камяніцы. У час вайны з Расіяй у 1655 калегіум спалены. У 1660 зноў адчынена рэзідэнцыя, якая ў 1702 пераўтворана ў калегіум. Новы мураваны гмах пацярпеў ад пажару ў 1732, пасля адбудаваны. У 1666 пачата будаўніцтва касцёла св. Францыска Ксаверыя, першая служба адбылася ў 1722, асвячоны ў 1759. Касцёл — познабарочная 3-нефавая крыжова-купальная базіліка з 2 вежамі на гал. фасадзе. У касцёле зроблены мураваныя алтары, упрыгожаныя лепкай (Ян Кернер, Антоній Дацрат): св. Францыска Ксаверыя, св. Ігнація Лаёлы, св. Алойзія, святых Тадэвуша і Юзафа. Казанні прамаўляліся на польскай і літ. мовах. З 1650 існавала музычная бурса, дзейнічалі тэатр, аптэка. У калегіуме створаны *«Ковенскі зборнік»*. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) калегіум пертвораны ў падакруговую школу Адукацыйнай камісіі. Касцёл у 1824 пераў...

*Літ.*: Paszenda J. Kościół jezuitów w Kownie // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 2000. T. 2.



**Ковенскі езуіцкі калегіум.** Касцёл Францыска Ксаверыя.

**Ковенскі замак,** фартыфікацыйны комплекс 14—17 ст. у г. *Коўна*. Размешчаны на Пн ад горада, на кліне, утвораным у месцы ўпадзення Віліі ў Нёман. У сваёй эвалюцыі прайшоў 3 гал. этапы. Легендарным заснавальнікам замка лічыцца Кунас, сын *Палемона*.



Ковенскі замак.

Рэальны час пабудовы першапачатковага К.з. тыпу кастэль застаецца дыскусійным. К.Мякас адносіў пачатковы этап будаўніцтва замка да сярэдзіны 13 ст., В.Ляваndаўскас і С.Абрамаўскас — да 2-й пал. 13 ст., Т.Поляк — да канца 13 ст., Т.Адамоніс — да канца 13—пач. 14 ст. А.Жалнерус прапанаваў найб. познюю храналогію: узвядзенне замка ў Коўне пачалося ў 1361, а пасля вясны 1362 (доўгай аблогі і разбурэння замка войскам Нямецкага ордэна пад камандаваннем Вінрыха фон Кніпродэ) яно не было закончана. У плане гэта быў нерэгулярны чатырохвугольны замак, бязвежавы, з падвоеным мурам і ровам, запоўненым вадою. У якасці будаўнічага матэрыялу выкарыстаны палявыя валуны, пакладзеныя на вапнава-пясчанай рошчыне; для муравання архітэктурных канструкцый выкарыстоўвалася цэгла. Вышыня сцен дасягала 12 м, таўшчыня — 2,5 м. Плошча двара 5200 м². Існавалі 2 брамы з пад'ёмнымі мастамі. Замак быў вернуты ВКЛ і адбудаваны, а ў 1376 адбіты чарговы ордэнскі штурм. У 1383 разбураны ў выніку прускага наезду пад камандаваннем вял. магістра Конрада Цольнера фон Ротэнштайна. На рэштках замка ВКЛ быў узведзены новы крыжацкі замак, а паміж Нёманам і Вяллёй пракапаны дадатковы канал, названы Рыцарскім (Ritterswerde). У далейшым замак пераходзіў з рук у рукі, пакуль пасля Грунвальдскай бітвы 1410 вял. кн. Вітаўт канчаткова не ўсталяваў уладу ВКЛ над Коўнам, ма-



дэрнізаваўшы замак. Новае чатырохбаковае ў плане збудаванне мела 1 лінію абарончага муру з 4 вежамі на вуглах, па чарзе круглымі і квадратнымі, з уязной брамай у паўд.-ўсх. квадратнай вежы. Таўшчыня муру дасягала 2,2—3,5 м. Вакол замка быў выкапаны роў. У 1560—80 вакол паўд.-зах. вежы была пабудавана з цэглы нізкая (5 м у вышыню, гіпатэтычна — да 11—12 м) паўкруглая (дыяметр 41 м) бастэя з баявымі пазіцыямі для гармат, якія забяспечвалі франтальны і фланкіруючы абстрэл. Верагодна, гэта была першая бастэя ў ВКЛ. Байніцы ў мурах замка таксама мадэрнізаваны і прыстасаваны да новай зброі. К.з. з'яўляецца яркім прыкладам эвалюцыі замка ад гатычнага збудавання да інжынернай сістэмы артылерыйскай фартыфікацыі эпохі Рэнесансу. Вял. пажар 1655 разбурыў замак і, відаць, ён больш не адбудоўваўся. Захаваліся рэшткі 2 абарончых муроў, вежы з бастэяй і фрагменты другой вежы. Археалагічныя даследаванні праводзяцца з 1950-х г. (Р.Ябланскітэ, П.Тарасенка, Мякас). Зроблена кансервацыя руін.

*Літ.*: Mekas K. Kauno pilis // Lietuvos pilys. Vilnius, 1971; Levandauskas V. Kauno pirmoji pilis // Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1988. T. 1; Abramauskas S. Kauno antroji pilis // Там жа; Žalnierius A. The First Castle of Kaunas // Castella Maris Baltici. Vilnius, 2004. T. 6.

***Алег Дзярновіч.***

**«Ковенскі зборнік»**, рукапісны зборнік 1-й трэці 18 ст. Узнік у *Ковенскім езуіцкім калегіуме*. Апісаны А.Брукнерам і Я.Карскім; рукапіс загінуў у 1944 у Варшаве. У зборніку былі «аргумент» (пераказ гіст. падзей, пакладзеных у аснову твора) масленічнай драмы пра жыццё і смерць Нерона (пастаўлена ў тэатры калегіума ў 1731), бел. інтэрмеды «Селянін, вучань», «Селянін і вучань-уцякач», «Літаратар, селянін, Самахвальскі», «Гульня Фартуны» і інш. Гал. герой інтэрмедый — бел. селянін. Ён кемлівы, вынаходлівы, валодае гумарам, што памагае яму ашукваць паноў, шляхціцаў, «мудрых» вучоных, студэнтаў і нават чорта. Мова яго блізкая да гутарковай, уключае прымаўкі, прыказкі («Калі б на панскую мудрасць не мужыцкая хітрасць, даўно б мужыкі пагіблі»). Інтэрмеды «К.з.» вылучаюцца завершанасцю жанравай формы.

*Літ.*: Brückner A. Polnisch-russische Intermediendes XVIII // Archiv für slavische Philologie. Berlin, 1891. Bd. 13; Карский Е.Ф. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3, ч. 2. С. 214—237; Усікаў Я. Беларуская камедыя: (Ля вытокаў жанру). Мн., 1964. С. 93—122; Мальдзіс А. На скрыжаваннях славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 192—199.

**Ковенскі касцёл Гертруды.** Узведзены ў г. *Коўна* ў канцы 15—пач. 16 ст. як капліца. У 1-й пал.—сярэдзіне 16 ст. да зах. фасада прыбудавана вежа-званіца. Пацярпеў у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, аднаўлены на сродкі прыхаджан у 1680 ( у т.л. ўстаноўлены 2 новыя барочныя драўляныя алтары). У 1719 адрамантаваны, над прэсбітэрыем зроблены новы дах. У 1743 набрана цагляная падлога, адрамантавана драўляная столь, дах накрылі гонтай. У 1750 касцёл перадалі ордэну рахітаў, якім ён належаў да 1824. Яны пабудавалі драўляны кляштар, мужчынскі і жаночы шпіталі. У інтэр'еры не зрабілі вял. змен, алтар св. Стафана перайменавалі на св. Роха. У гэты час у касцёле стаяла 7 алтароў. Паміж 1785 і 1797 замест драўляных пастаўлены 3 мураваныя алтары, зроблены 2 сутарэнні, уваход у якія знаходзіцца з боку цэнтр. грані апсіды. У час вайны 1812 інтэр'ер касцёла значна пашкоджаны. У 1824—66 належаў шарыткам(сёстрам міласэрнасці), пасля стаў прыходскім. У канцы 19 ст. да паўн. сцяны прэсбітэрыя прыбудавана ў неагатычным стылі сакрыстыя. У 1922 касцёл перададзены кангрэгацыі марыян. У 1948—88 прыстасаваны пад сховішча медыкаментаў. У 1992 вернуты вернікам. Аб'ёмная кампазіцыя касцёла складаецца з рознавысокіх асн. часткі, шмат'ярусная вежы прыземістай формы на гал. фасадзе, прэсбітэрыя са шматвугольнай апсідай і сакрысціі. Узведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі. У касцёл вядуць 3 дзвярныя праёмы: 2 меншыя зроблены з боку гал. фасада і ў паўд. сцяне прэсбітэрыя, завяршаюцца аркамі паўцыркульнай формы; гал. ўваход размешчаны па восі сіметрыі зах. фасада, акцэнтаваны парталам, у муроўцы якога ўжыта прафіляваная цэгла. Над уваходам знаходзяцца хоры, якія абапіраюцца на 2 слупы. На хоры падымаюцца па ўсходах, зробленых у паўн.-зах. куце асн. аб'ёму. Першапачаткова хоры асвятляліся праз акно



Ковенскі касцёл Гертруды.

паўцыркульнай формы гал. фасада, якое цяпер закрыта вежай. Асн. аб'ём і прэсбітэрый прасторава злучаны паміж сабой аркай паўцыркульнай формы, на ёй прасочваюцца фрагменты жывапісу, якім раней быў упрыгожаны інтэр'ер. Асн. мастацкі акцэнт у экстэр'еры зроблены на дэкаратыўным афармленні зах. і паўд. фасадаў. Паўд. фасад разбіты на асобныя праслы складанапрафіляванымі контрфорсамі, паміж якімі зроблены невял. памераў вокны спічастай формы. На паўн. фасадзе вокны не былі запланаваны. Адхоны вокнаў маюць познагатычнае афармленне ў выглядзе 2 радоў складанапрафіляванай цэглы. Знешняму абліччу касцёла ўласціва познагатычная пластыка фасадаў, пабудаваная на кантрастным спалучэнні розных па форме і памерах ніш, аконных і дзвярных праёмаў.

*Літ.*: Šinkūnaitė L. Šv. Gertrūdos bažnyčia: faktai ir mintys // Kultūros paminklai. Vilnius, 1994. T. 1; Jankevičienė A. Kauno gotikines bažnyčios // Lietuvos Didžiosios Kunigaikstystes gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Ковенскі касцёл Пятра і Паўла.** Фундаваны ў г. *Коўна* вял. князем Вітаўтам у 1413 як парафіяльны. Аб аўтэнтычным выглядзе будынка няма дастаткова поўных звестак. Значна перабудаваны на мяжы 15—16 ст. Уяўлен-





**Ковенскі касцёл Пятра і Паўла**.



не аб знешнім выглядзе пасля перабудовы дае панарама Коўна пач. 17 ст. Т.Макоўскага. Высокія контрфорсы падзялялі фасады на 4 праслы, прарэзаныя выцягнутымі па вертыкалі вокнамі. Над уваходам па восі сіметрыі гал. фасада, як і цяпер, было акно спічастай формы. Тарцовыя фасады завяршаліся трохвугольнымі франтонамі, упрыгожанымі нішамі. Асн. аб'ём быў накрыты высокім 2-схільным гатычным дахам. Сцены ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі. З перапаленай цэглы ў цокальнай частцы фасадаў набраны ромбападобныя кампазіцыі. У канцы 17—пач. 18 ст. ў аб'ёмную кампазіцыю ўваходзілі 3 вежы, 2 з іх знаходзіліся па вуглах зах. паловы касцёла. У гэты час інтэр'ер упрыгожвалі 9 алтароў. У 1732 здарыўся пажар, у час якога былі моцна пашкоджаны інтэр'ер, вежы і дах касцёла. З вежаў захавалася толькі адна, якую прыстасавалі пад званіцу. У час рамонту ў касцёле размясцілі 7 алтароў, арган, набралі цагляную падлогу. У 1771 інтэр'ер аднаўлены на сродкі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Працамі кіраваў архітэктар Кароль са Скаруляў. У 1775 абноўлены гал. алтар (скульптар Т.Падгайскі). У 1800 у касцёле зноў здарыўся пажар. Аднаўленнем кіраваў архітэктар Е.Барэцiс. У 1808—64 касцёл належаў ордэну аўгусцінцаў. У 1881 паводле праекта У.Галяневіча павялічаны ў памерах прэсбітэрый. У 1895 храм абвешчаны кафедральным саборам, у сувязі з гэтым быў праведзены яго грунтоўны рамонт. У 1893—94 паводле праекта Ф.Выганоўскага зроблены бакавыя ўваходы. Адхоны некаторых вокнаў былі нанава дэкарыраваны характэрнай для позняй готыкі складанапрафіляванай цэглай; быў абноўлены алтар, падлогу набралі з рознакаляровых цэментных плітак, інтэр'ер дэкарыравалі лепкай. У 1893—97 з Пд да вімы прыбудавана капліца ў неагатычным стылі. У канцы 19 ст. касцёл размаляваны фрэскамі. У 1937—39 абноўлены фасады і зроблена металічнае крыццё даху. У 1970—76 праведзена частковая рэстаўрацыя помніка.

Касцёл — 3-нефавая з крыху перакошаным планам 8-слуповая базіліка, якая мае моцна выцягнуты ў даўжыню прэсбітэрый, што заканчваецца шматграннай апсідай. Да вял. вімы прэсбітэрыя, і роўнавысокага з гал. нефам, з паўн. боку прылягае сакрыстыя, а з паўднёвага — неагатычная капліца. Травеі бакавых нефаў перакрыты крыжовымі скляпеннямі, а гал. нефа і 2 прылеглых да яго травей прэсбітэрыя — цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У сакрыстыі і 2 крайніх травеях алтарнай часткі ўжыты зорчатыя скляпенні. Сцены прэсбітэрыя і алтарнай часткі прарэзаны высокімі спічастымі вокнамі. Яны перарываюцца прасценкамі па сярэдзіне сваёй вышыні. Сцены ўмацаваны высокімі складанапрафіляванымі контрфорсамі. Травеі бакавых нефаў асвятляюцца здвоенымі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Вокны верхняга асвятлення маюць аналагічную форму завяршэння. Першапачаткова яны былі вузейшыя. Аб'ёмную кампазіцыю ўзбагачае шмат'ярусная вежа прыземістай формы, узведзеная над 2 зах. травеямі паўд. бакавога нефа. Барочнае афармленне інтэр'ера падкрэсліваюць складанай канфігурацыі апорныя слупы, якія падтрымліваюць тонкія падпружныя аркі цыліндрычных скляпенняў гал. нефа і крыжовых бакавых нефаў, а таксама лепка, жывапіс, разьба. Помнік — сінтэз гатычнай, рэнесансавай і барочнай архітэктуры. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 548.

*Літ.*: Reklaitis P. Kauno arkikatedra-bazilika // Lietuvių encyklopedija. Boston, 1957. T. 11; Grinevičiutė-Jankevičienė A. Kauno bazilika // Valstybinės TSR architektūros paminklų apsaugos inspekcijos metraštis. Vilnius, 1960. T.2; Я е ж. Šv. Petro ir Pawlo archikatedra bazilika // Kauno architektūra. Vilnius, 1991; Я е ж. Kauno gotikinės bažnyčios // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002; Kviklys B. Kauno arkikatedros-bazilikos // Lietuvos bažnyčios. T. 3. Kauno arkivyskupija. Chicago, 1983; Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1987. T. 1.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Ковенскі кляштар бенедыкцінак.** Касцёл св. Мікалая ў г. *Коўна* ўпершыню ўпамінаецца як капліца ў 1495. У 1503 вял. князь Аляксандр перадаў яе прыходскаму касцёлу св. Пятра і Паўла. У пач. 17 ст. знаходзіўся ў дрэнным



**Ковенскі кляштар бенедыкцінак**. Касцёл св. Мікалая.



стане. Прывілеем 1624 Жыгімонт III дазволіў маршалку Андрэю Скарульскаму адрамантаваць касцёл і перадаць яго ордэну бенедыкцінак. У 1627 аднoўлены, пазней на Пн ад касцёла пабудаваны драўляныя лазня, пякарня і кухня, а на У — 2-павярховы драўляны кляштар. У 1663 касцёл адрамантаваны на сродкі Самуэля Хорскага. На мяжы 18—19 ст. падлога ў касцёле набрана з паліваных плітак, дах накрыты гонтай. У 1825 пабудаваны мураваны кляштар. У 1834 да паўд. фасада прыбудавана 2-павярховая галерэя, якая злучыла касцёл з кляштарам. У 1882 да зах. фасада зроблены вял. прыдзел (на яго 2-м паверсе цяпер размяшчаюцца арганныя хоры). У выніку будаўнічых работ 2 гатычныя фасады аказаліся закрытымі пазнейшымі прыбудовамі. У 19 ст. столь падтрымлівалі драўляныя слупы. У час рамонтаў 1882 і 1910 зменена канструкцыя даху, а таксама ўсх. франтона. У 1938 абноўлены фасады, у вокны алтарнай часткі ўстаўлены вітражы. У 1948—90 касцёл прыстасаваны пад кнігасховішча, пасля адрамантаваны і вернуты вернікам. Касцёл пабудаваны з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Першапачаткова яго архітэктоніка складалася з асн. аб'ёму прамавугольнай формы, роўнага яму па вышыні прэсбітэрыя (зрушаны адносна восі сіметрыі ў паўд. кірунку), 2-павярховай сакрысціі (прыбудавана да паўн. сцяны прэсбітэрыя), шмат'яруснай вежы (прыбудавана да паўд. фасада). На паўн. фасадзе з перапаленай цэглы набраны асобныя і суцэльныя ромбападобныя кампазіцыі. Сцены асн. часткі ўмацаваны шматпрыступкавымі контрфорсамі. У прэсбітэрыі ўжыты познагатычныя сеткавыя скляпенні, якія разам з сотавымі скляпеннямі сакрысціі і зорчатымі 1-га яруса вежы ствараюць урачыстую аздобу інтэр'ера. Пластыку вонкавай аб'ёмнай кампазіцыі ўзмацняе вежа-званіца, у паярусным багатым дэкаратыўным афармленні якой адчуваюцца ўплывы рэнесансу. 1-ы ярус вежы мае чацверыковую форму і прыстасаваны пад капліцу, па вышыні роўны асн. аб'ёму.

*Літ.*: Grinevičiutė-Jankevičienė A. Trys gotiskos halines bažnyčios Lietuvoje // Lietuvos TSR architektūros klausimaj. Kaunas, 1960; Я е ж. Два памятника архитектуры XV в. в Каунасе // Архитектурное наследство. М., 1972. Вып. 19; Я е ж. Kauno gotikinės bažnyčios // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002; Kauno architektūra. Vilnius, 1991. P. 203—209.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***



**Ковенскі кляштар бернардзінак**.

**Ковенскі кляштар бернардзінак.** У 1595 манашкі-бернардзінкі набылі ў г. *Коўна* пад кляштар мураваны дом у бурмістра Ганса Шпілена. У 1619 А.Масальскі даў фундуш кляштару. У 1624 кляштар значна пашкоджаны пажарам. У працэсе аднаўлення кляштарны комплекс перапланаваны і абнесены муравaнай гатычнай агароджай. У 1624—34 у паўд. частцы тэрыторыі кляштара пабудаваны познагатычны касцёл Св. Тройцы і Бярнарда, што захаваўся да нашага часу разам з асобнымі карпусамі кляштара. Пажарамі 1655—60 і 1668 касцёлу нанесены значныя пашкоджанні. У пач. 18 ст. інтэр'ер аднoўлены ў барочным стылі. Крыху пазней надбудавана вежа-званіца. У 1864 кляштар зачынены. Усх. і цэнтр. карпусы з садам і гаспадарчымі пабудовамі былі перададзены парафіі, зах. корпус стаў уласнасцю каталіцкай семінарыі. У 1899 зроблены рамонт. У 1939 паводле праекта Л.Сангайлы зменена аздоба інтэр'ера. У 1978 касцёл перададзены духоўнай семінарыі. У 1982 у храме ўстаноўлены новыя алтары. Па архітэктоніцы гэта 3-нефавая зальная пабудова з прэсбітэрыем, які заканчваецца паўкруглай апсідай. Да крайняга прасла паўд. фасада прымыкае вежа-званіца. Уздоўж паўн. фасада зроблены калідор, што вядзе з сакрыстыі ў кляштар. Фасад храма падзелены лапаткамі на асобныя пpaслы, якія праразаюць вокны спічастай формы. Цэнтр. неф і прэсбітэрый перакрыты зорчатымі, а бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Пасля шматлікіх рамонтаў помнік уяўляе сабой сінтэз гатычнай і барочнай архітэктур.

*Літ.*: Kauno architektūra. Vilnius, 1991.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***



**Ковенскі кляштар бернардзінак**. Касцёл Св. Тройцы і Бернарда.



**Ковенскі кляштар бернардзінцаў.** Фундаваны ў г. *Коўна* ў 1468 вял. князем і каралём Казімірам IV. Спачатку бернардзінцамі быў узведзены невял. драўляны касцёл, а для жылога корпуса не знайшлося месца. У 1471 староста гарадзенскі Станька Судзівоевіч падараваў манахам участак зямлі з драўлянай забудовай ад замка да Нёмана. Каля 1487 яны пабудавалі ў гатычным стылі аднапавярховую мураваную сакрыстыю і частку ўсх. корпуса кляштара. У 1492 пачата ўзвядзенне мураванага касцёла св. Георгія (Юрыя) і прадоўжана будаўніцтва жылога корпуса. У асн. будаўнічыя працы былі завершаны да 1513. У канцы 16 ст. касцёл пашкоджаны пажарам. У 1598 закончана яго аднаўленне, якім кіраваў віленскі майстр Мікалай Юргевіч. Ад пажару 1603 больш за ўсё пацярпеў асн. аб'ём касцёла. Самыя значныя пашкоджанні былі нанесены пажарам 1624, калі абваліліся скляпенні з апорнымі слупамі. Патрабаваў рамонту і жылы корпус. Аднаўленне пачата ў 1630, скончана ў 1643. У выніку інтэр'ер быў перакрыты цыліндрычнымі з распалубкамі скляпеннямі. Касцёл значна пашкоджаны ў 1656 і 1659 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1668 яшчэ раз гарэў. У 1744 у цэнтр. прасле паўн. фасада зроблены дадатковы ўваход у касцёл, а ў 1747 разабраны прыдзел гал. ўвахода ў храм. У час вайны 1812 войскі Напалеона прыстасавалі частку кляштара пад сховішча правіянту. У 1818, 1844, 1914, 1921 і 1936 вяліся рамонтныя работы. З 1950 у касцёле знаходзіўся склад медыкаментаў. Цяпер помнік знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі.



**Ковенскі кляштар бернардзінцаў.** Касцёл Георгія.

Касцёл — велічная 3-нефавая зальная пабудова з базілікальнай прадоўжанасцю інтэр'ера. Храм мае высокую ўнутраную прастору. Сцены на ўсю вышыню ўмацаваны складанапрафіляванымі контрфорсамі, якія часткова ўпушчаны ў інтэр'ер. У адрозненне ад асн. аб'ёму фасады прэсбітэрыя расчлянёны гранёнымі контрфорсамі на асобныя праслы. Над гал. уваходам на ўсю яго шырыню зроблены мураваныя хоры, на якія можна падняцца па ўсходах, зробленых у тоўшчы масіўнай паўд. сцяны. Адхоны вокнаў дэкарыраваны складанапрафіляванай цэглай. Аналагічная цэгла ўжыта ў парталах гал. і паўн. бакавых уваходаў.

Да паўд. фасада прымыкае 3-павярховы П-падобы ў плане жылы корпус, узведзены на працягу некалькіх будаўнічых этапаў пачынаючы з 2-й пал. 15—пач. 16 ст. Вопісы 17 ст. сведчаць, што на 1-м паверсе жылога корпуса знаходзіліся сакрыстыя, келлі манахаў, рэфекторый, кухня, пякарня, а на 2-м — бібліятэка і келлі манахаў. У 1842 кляштар быў зачынены , а яго будынкі перададзены магістрату. У 1845 частка жылога корпуса прыстасавана пад вязніцу. У 1848 тут размяшчаўся батальён Каўнаскага гарнізона, у 1850 — склад ваеннага рыштунку. У 1864 праведзена рэстаўрацыя кляштара, каб размясціць гар. семінарыю. У 1925 паводле праекта Ф. Візбара пабудаваны 3-і паверх жылога корпуса. У 1950—57 тут размяшчалася медыцынская школа. Цяпер помнік належыць Каўнаскай духоўнай семінарыі. Першыя 2 паверхі ўсх. і паўд. карпусоў узведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Іх фасады маюць багаты гатычны дэкор у выглядзе гладкага фрыза, паясоў парэбрыка, плоскіх пабеленых ніш прамавугольнай формы, а таксама з паўцыркульным і спічастым завяршэннем. Сцены ўсх. і паўд. карпусоў прарэзаны паўцыркульнымі і спічастымі вокнамі невял. памераў. Кляштар — помнік гатычнай архітэктуры з элементамі рэнесансу і барока.

*Літ.*: Puzinas J. Kauno banyčių istorijos // Savivaldybė. 1928. № 11; Jankevičienė A. Kauno gotikinės bažnyčios // Lietuvos Didžiosios Kunigaikstystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***



**Ковенскі кляштар бернардзінцаў.**

**Ковенскі кляштар францысканцаў.** Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі фундаваны ў г. *Коўна* вял. князем Вітаўтам у 1400, потым перададзены францысканцам, якія пабудавалі драўляны кляштар. Касцёл упамінаецца ў прывілеі 1436, які дазволіў замежным купцам і рамеснікам наведваць тут набажэнствы. Кляштар моцна пашкоджаны ў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, *Паўночную вайну 1700—21* і вайну 1812, аднаўляўся ў 1669, 1712 і 1819. У 1845 кляштар разабралі, касцёл зачынілі, а ў 1853 яго прыстасавалі пад правасл. царкву. Пры гэтым фасады атынкавалі



**Ковенскі кляштар францысканцаў.** Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

і пафарбавалі ў чырвоны колер, дах накрылі бляхай, змянілі завяршэнне вежы. У час паводак 1862 і 1868 пашкоджаны, адноўлены ў 1870—72. У 1919 вернуты каталікам, адрамантаваны ў 1938. Па сваёй архітэктоніцы касцёл — 3-нефавая зальная пабудова, якая мае базілікальную падоўжанасць інтэр'ера пры агульнай прыземістасці аб'ёмнай кампазіцыі. Да паўн. сцяны прэсбітэрыя прымыкае 2-павярховая сакрысція. Да бакавых травей усх. прасла асн. аб'ёму прыбудаваны 2 капліцы, вырашаныя ў выглядзе трансепта. Па восі гал. фасада стаіць шмат'ярусная вежа. Сцены ўзведзены з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі. У канструкцыйна важных месцах муры ўмацаваны магутнымі контрфорсамі прамавугольнага сячэння. Паміж контрфорсамі размешчаны шырокія вокны спічастай формы. Капліцы аформлены як цалкам самастойныя аб'ёмы, іх тарцовыя фасады завяршаюцца франтонамі, упрыгожанымі нішамі спічастай формы і дэкаратыўнымі слупкамі фіяламі. Па форме яны адпавядаюць франтону гал. фасада. У асн. частцы ўжыты люстраныя скляпенні. Прэсбітэрый і паўд. капліца перакрыты аўтэнтычнымі гатычнымі скляпеннямі, якія ў плане маюць 6-канцовую і 4-канцовую зоркі. Асн. элементам пластычнага афармлення фасадаў з'яўляюцца пабеленыя плоскія нішы спічастай і круглай форм. Аналагічныя нішы, але меншых памераў, упрыгожваюць контрфорсы.

*Літ.*: Янкявичене А. Два памятника архитектуры XV в. в Каунасе // Архитектурное наследство. М., 1972. Вып. 19; Я е ж. Kauno gotikinės bažnyčios // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Ковенскі манетны двор**, адзін з часовых манетных двароў ВКЛ. У 1665—67 біў медныя *соліды* караля Яна II Казіміра з датамі 1665—66. Арандатарам двара быў Анджэй Георг фон Горн, ініцыялы якога GFH змешчаны на аверсе пад партрэтам караля. Мяркуецца (па знаходцы манетнай загатоўкі ў 1994), што размяшчаўся на тэр. *Пажайскага кляштара камедулаў* пад Коўнам. Соліды К.м.д. не адрозніваюцца ад солідаў *Мальбаркскага манетнага двара*. Іх агульная рыса — наяўнасць часткі герба падскарбія Гераніма Крышпіна-Кіршэнштэйна (галава аленя) замест манаграмы з яго ініцыялаў і назвы пасады на солідах таго часу манетных двароў Т.Л.Бараціні.

*Літ.*: Janušonis S. 1692 m. Kauno pinigų kalyklos inventorius // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Ekonomika. Vilnius, 1984 T. 26; Сінчук І.І. «Шеляжные» монетные дворы ВКЛ и медные солиды Яна Казимира в кладах // Mennice między Bałtykiem a Morzem Czarnym — wspólnota dziejów. Warszawa, 1998.

***Іван Сінчук.***

**Коданская Святадухаўская царква.** Пабудавана ў г. *Кодань* у 1513—20 пад наглядам Багдана Сапегі. У 1630 царква перададзена уніятам, у 1817 зачынена, пасля прыстасавана пад касцёл. Па сваёй архітэктоніцы гэта 3-нефавае зальнае з паўкруглай апсідай па-



**Ковенскі кляштар францысканцаў.** Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Апсіда.

будова. Да паўн. сцяны алтарнай часткі прымыкала рызніца (цяпер сакрыстыя). Перакрыта цыліндрычным скляпеннем. Каля паўн.-зах. вугла асн. аб'ёму ўзведзена круглая вежа. Агульныя памеры царквы 28,4 x 17м. Пабудавана з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі на вапнава-пясчанай рошчыне. На гал. фасадзе, а таксама, відаць, часткова на паўн., ужыта перапаленая цэгла цёмналіловага адцення. Уваход у храм уяўляе паўцыркульную арку, акцэнтаваную рэнесансавай акаймоўкай з гербам Сапегаў, над ім зроблена акно круглай формы. Інтэр'ер перакрыты скляпеннямі, размяшчэнне нервюр якіх мае сеткападобную форму. Звонку сцены царквы



**Коданская Святадухаўская царква.**

падзелены шматпрыступкавымі контрфорсамі на асобныя праслы. Контрфорсы гал. фасада захопліваюць палову франтона. Схіл зах. франтона вянчаюць невял. фігурныя слупкі. Храм накрыты высокім 2-схільным дахам, над якім узвышаецца невял. вежа-званіца.

*Літ.*: Флиер А.Я. К вопросу об архитектуре зальных православных храмов начала XVI в. в Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1986. Вып. 34; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 60—63.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Коданскі абраз Маці Божай.** Скульптурны пратограф абраза знойдзены ў 1313 у скалах над р. Гвадэлупа ў Іспаніі і прыпісваецца евангелісту Луку. У Рыме знаходзіўся яго жывапісны паўтор, нібыта намаляваны св. Аўгусцінам. Гісторыя з'яўлення абраза ў мяст. *Кодань* мае драматычны характар. М.Сапега, будучы ў Ватыканскім араторыі, так упадабаў абраз Маці Божай Гвадэлупскай, што захацеў любым чынам вывезці яго ў Кодань. Падкупіўшы сакрыстыяна за 500 дукатаў, ён атрымаў абраз і ноччу выехаў з Рыма. Калі выявілася прапажа, суд нунцыя ў Варшаве прызначыў Сапегу год турмы, вяртанне абраза, пешы паход у Рым і заканчэнне пачатага ім у 1629 у Кодані будаўніцтва касцёла. У 1635 Сапега паехаў у Рым і атрымаў дазвол аддаць абраз у свой касцёл, ён жа падараваў кароны, скіпетр і сімвалы сонца і месяца. 8.1.1636 пры асвячэнні ў Кодані касцёла св. Ганны абраз быў перанесены туды з замка. У 1657 шведы і семіградцы абрабавалі касцёл, неўзабаве пасля гэтага кароль Ян II Казімір наведаў Кодань і на ахвяру абразу даў дарагі рубін. Каштоўную сярэбраную шату і вуаль, аздобленую жэмчугам, справіла Канстанцыя з Гербуртаў, муж яе Я.Ф.Сапега адбудаваў касцёл. У 1719 з вотаў у Гданьску зрабілі сярэбраную раму. Гісторыя абраза была напісана Я.Ф.Сапегам і спачатку надрукавана пад прозвішчам ксяндза Я.Валіцкага («Historia przezacnego obrazu kodeńskiego Panny Maryi», Торунь, 1720), пазней перавыдадзена пад уласным імем («Monumenta antiguitatum Marianarum», Варшава, 1721; «Monumenta albo zebranie starożytnych ozdob», Варшава, 1723). Сучасныя гісторыкі не знайшлі пацвярджэння легенды пра вываз аб-



**Коданскі абраз Маці Божай.**

раза з Рыма. Яго культ пачаўся з кнігі Я.Ф.Сапегі, дзякуючы яго ж намаганням абраз са згоды папы Клімента XI быў каранаваны 15.8.1723 (другім у ВКЛ пасля Троцкага абраза). У 1875, калі касцёл быў зачынены царскімі ўладамі, паводле загаду ген.-губернатара Кацэбу абраз быў перавезены ў Чанстахову (Польшча). У 1927 вернуты ў Кодань.

Намаляваны алеем на палатне памерам 223 x 128 см у пач. 17 ст. (так лічаць сучасныя гісторыкі мастацтва). Маці Божая паказана ў рост, у правай руцэ скіпетр, на левай маленькая фігурка Ісуса ў шырокім плашчы, над галовамі каралеўскія кароны. Абразы такога тыпу ў 18—19 ст. з'явіліся ў правасл. цэрквах Расіі пад назвай «Прибавление ума».

*Літ.*: Dom Sapieżyński. Warszawa. 1995.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Кодань** (польск. Kodeń, цяпер вёска ў Люблінскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Берасцейскім пав., на р. Зах. Буг. Паводле родавай традыцыі Сапегаў, маёнтак К. купіў у канцы 15—пач. 16 ст. Івашка Сапега ў братоў Рушчыцаў і Хацка, а ў 1511 атрымаў на Берасцейскім сойме велікакняжацкі прывілей на закладку тут мястэчка. І.Сапега пабудаваў мястэчка і замак К., у ім драўляную царкву Міхаіла-архангела. Яго сын Павел у замку пабудаваў мураваную гатычную *Коданскую Святадухаўскую царкву*. Пасля права ўласнасці Сапегаў на К. было аспрэчана і маёнтак канфіскаваны. У 1546 вял. кн. Жыгімонт Аўгуст падараваў К. Сапегам. У 1629—36 па фундацыі М.Сапегі пад кіраўніцтвам люблінскага архітэктара Я.Кангерлі пабудаваны мураваны касцёл св. Ганны, дзе з 1636 знаходзіўся *Коданскі абраз Маці Божай*. У 1657 касцёл пацярпеў ад шведаў, паўторна асвячоны ў 1686, у 1709—15 пабудаваны барочны гал. фасад з вежай. У пач. 17 ст. пабудавана драўляная уніяцкая царква (пасля 1875 разабрана, захавалася брама). У 1718—73 у К. дзейнічала місія езуітаў. У 18 ст. часткай К. валодалі Чартарыйскія. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Аўстрыі.

*Літ.*: Podlasiak K.J. Kodeń i jego kościoły. Biała Podlaska, 1891; P.J.K. Kodeń Sapiehów. Kraków, 1898; Świechowski Z. Budowle renesansowe w Kodniu // Biuletyn historii sztuki. 1954. № 1; Seniuk B. Z dziejów Kodnia // Mówią wieki. 1979. Z. 4; Młynarski Z. Sanktuarium Królowej Podlasia w Kodniu. 2 wyd. Rzym, 1980; Król K. Książęta Sapiehowe, dziedzice Kodnia, fundatorzy i kolatorzy sanktuarium Matki Boskiej Kodeńskiej. Warszawa, 1993; Tłomacki A. Sapiehowie: Linia kodeńska. Warszawa, 1996; Semeniuk A., Maraśkiewicz J., Demidowicz T. Kodeń — historia osady, sanktuarium, rozwój kultu. Biała Podlaska, 1997; Мянжынскі В.С., Несцярovіч Ю.У. «Канфірмацыі гаспадара і вышэйшых устаноў Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага» як намінальная публікацыя // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2001. Вып. 2; Krzesik T. Skazana na wygnanie: Dzieje Kodnia i Sanktuarium. Kodeń; Lublin, 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Кодэкс дыпламатычны Віленскай кафедры і дыяцэзіі»** («Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej»), зборнік дакументаў канца 14—пач. 16 ст. па гісторыі Віленскага кафедральнага касцёла і Віленскага біскупства. Выдадзены 1-ы том у 3 сшытках у Кракаве ў 1932—48 Польскай АН. Складзены *Я.Фіялэкам* і *У.Сямковічам*. Працяг выдання не здзейснены. Змешчана 618 дакументаў у асн. частцы і 53 у дадатку, першы ў храналагічным парадку — прывілей Ягайлы 17.2. 1387 аб наданні зямель Віленскаму кафедральнаму касцёлу, апошні — дазвол біскупа Войцеха Табара Рыгору Осцікавічу на фундацыю парафіяльнага касцёла ў Гедужыне (паміж 1492 і 1507). Сярод дакументаў прывілеі і ліс-

ты вял. князёў, магнатаў і шляхты ВКЛ каталіцкай царкве на наданне зямель і даходаў у розных мясцовасцях Беларусі і Літвы, на заснаванне касцёлаў, лісты рымскіх пап, кардыналаў і біскупаў да віленскіх біскупаў. Пры кожным дакуменце даныя аб месцы знаходжання арыгінала, копіях і ранейшых публікацыях, прыведзены розначытанні. Большасць дакументаў надрукавана ўпершыню (на лацінскай, некаторыя на бел. мове, надрукаваны лац. шрыфтом). У 1994 асобнымі выданнямі выйшлі «Уводзіны» і «Індэксы» да зборніка.

**«Кодэкс Замойскага»** («Збор судовых законаў»), праект збору законаў Рэчы Паспалітай. У рамках шырокіх сац. рэформ для ўдасканалення права па ініцыятыве караля *Станіслава Аўгуста* Панятоўскага сойм 1776 даручыў былому кароннаму канцлеру Анджэю Замойскаму падрыхтаваць адзіны для Рэчы Паспалітай кодэкс законаў на прынцыпах «натуральнай справядлівасці, духу часу і агульнай карысці» (шляхам папраўкі статута Я.Ласкага 1505 для Кароны Польскай і Статута ВКЛ 1588). Праект Замойскага прадугледжваў упарадкаванне грамадзянска-судовай сістэмы і прапаноўваў пашырыць шляхецкія вольнасці і прэрагатывы на непрывілеяваныя станы (вызваленых ад прыгону сялян і мяшчан у гарадах каралеўскай юрысдыкцыі). Сойм 1778 адхіліў «К.З.» за замах на саслоўныя парадкі, а сойм 1780 забараніў уваскрашаць яго ў любым выглядзе на наступных соймах.

*Літ.*: Adolphowa K. Szlachta litewska wobec zbioru praw Andrzeja Zamojskiego: (w świetle litewskich instrukcyj poselskich z lat 1776, 1778, 1780 i 1782) // Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy uniwersztetu Stefana Batorego w Wilnie, 1923—1933. Wilno, 1933; Barkowska-Bagieńska E. Zbiór praw sądowych Andrzeja Zamojskiego. Poznań, 1986; Malec J. Walka szlachty litewskiej o zachowanie III Statutu w drugiej połowie XVIII wieku // Czasopismo prawno-historyczne. 1993. Z. 1—2.

*Яўген Анішчанка.*

**«Кодэкс Станіслава Аўгуста»**, праект збору законаў Рэчы Паспалітай. Складаўся па ініцыятыве караля *Станіслава Аўгуста* Панятоўскага. Для падрыхтоўкі кодэкса *Чатырохгадовы сойм 1788—92* у 1789 стварыў камісію на чале з камянецкім біскупам А.Красінскім. Камісія прапанавала цэнтралізаваць судова-адм. сістэму Рэчы Паспалітай. Соймавая дэкларацыя 5.5.1791 абвясціла *Канстытуцыю 3 мая 1791* адзінай крыніцай права і скасавала ўсе папярэднія законы, што азначала адмену Статута ВКЛ. Паслы ад ВКЛ выступілі супраць скасавання аўтаноміі княства і дамагліся 28.6.1791 стварэння для падрыхтоўкі кодэкса цывільнага і крымінальнага права асобных для Кароны Польскай і ВКЛ камісій (на аснове «натуральных правоў чалавека», Канстытуцыі 3 мая, статутаў Кароны і ВКЛ, а таксама інш. дзярж. законаў). Камісія ВКЛ на чале з інфлянцкім біскупам Ю.Касакоўскім выпрацавала толькі праект *зямянскага суда* і трыбунала. Аб'яднанню праектаў у адзіны кодэкс перашкодзіла *Таргавіцкая канфедэрацыя*.

*Літ.*: Kodeks Stanisława Augusta: Zbior dokumentów. Warszawa, 1938; Malec J. Walka szlachty litewskiej o zachowanie III Statutu w drugiej połowie XVIII wieku // Czasopismo prawno-historyczne. 1993. Z. 1—2.

*Яўген Анішчанка.*

**«Кодэкс эпісталярны Вітаўта»** («Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae, 1376—1430»), зборнік дакументаў па гісторыі ВКЛ часоў княжання *Вітаўта*. Складзены А.*Прахаскам*, выдадзены ў Кракаве ў 1882 у серыі «Помнікі сярэдневяковай гісторыі, што асвятляюць гісторыю Польшчы» (т. 6). Змешчаны 1464 дакументы ў асн. частцы і 43 у дадатку за 1376—1430. Сярод іх дзярж. і прыватная перапіска, міжнар. дагаворы, пасольскія інструкцыі, акты прысягі, прывілеі на маёнткі і інш. Дакументы выдадзены ад імя князёў ВКЛ, каралёў Польшчы, Чэхіі, малдаўскіх ваявод, рымскіх пап, вял. магістраў Нямецкага ордэна і інш. на нямецкай, лацінскай, старабел. мовах, размешчаны ў храналагічным парадку. Узяты з архіўных сховішчаў Пецярбурга, Варшавы, Курніка, Славуты, Кёнігсберга, Прагі, часткова з ранейшых публікацый (некаторыя надрукаваны ў выглядзе рэгестаў). Пазначаны месцазнаходжанне арыгінала, ранейшыя публікацыі, прыведзены істотныя розначытанні імён паводле розных спісаў, дадзена апісанне пячатак пры дакументах, зроблена ідэнтыфікацыя малавядомых асоб і мясцовасцей. У прадмове дадзена археаграфічная характарыстыка крыніц, апісаны асн. рукапісныя зборнікі актаў Вітаўта з пералічэннем дакументаў у іх складзе. Ёсць паказальнік асабовых імён і геагр. назваў. Зборнік мае вял. навуковае значэнне.

*Валерый Пазднякоў.*

**Койданава** (цяпер Дзяржынск, горад, цэнтр Дзяржынскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Менскім ваяв., на р. Няцеча. Магчыма, існаваў з 12 ст. як Крутагор'е ў складзе Полацкага, потым Менскага ўдзельнага княства. Упершыню ўпамінаецца пад 1442. У 1445 Казімір Ягелончык аддаў К. разам з гарадамі Бельск, Бранск, Сураж, Клецк і Старадуб Міхалу Жыгімонтавічу, сыну Жыгімонта Кейстутавіча. З 1483 належаў В.М.Вярэйскаму. У выніку шлюбу дачкі апошняга Соф'і Вярэйскай з А.М.Гаштольдам К. ў 1522 перайшло да Гаштольдаў. У 1502 і 1503 спалены татарамі. У 1542 уладальнікам К. стаў вял. князь ВКЛ Жыгімонт I Стары, які ў наступным годзе перадаў горад свайму сыну Жыгімонту II Аўгусту, а той у 1550 падараваў яго Радзівілам (належаў да 1831); цэнтр Койданаўскага староства, пазней графства. З 1566 у складзе Менскага ваяв. З 2-й пал. 16 ст. адзін з буйнейшых цэнтраў кальвінізму. Каля 1564 Мікалай Радзівіл Руды пабудаваў тут драўляны кальвінскі збор, плябанію, школу, багадзельню; з 1613 збор мураваны (не збярогся). У 1588 у мястэчку замак, 120 «дымоў», збор, ратуша, касцёл, 2 карчмы, 4 вадзяныя млыны, рынак. Было 6 вуліц: Віленская, Менская, Плябанская, Рубяжэвіцкая, Слуцкая, Станькаўская. У тым жа годзе вял. князь ВКЛ Жыгімонт III Ваза дазволіў жыхарам К. праводзіць на год 2 вял. кірмашы: на Грамніцы (2 лютага) і Сёмуху (май—чэрв.) і штотыднёвы базар, пазней былі дазволены кірмашы яшчэ на Юр'я (23 крас.) і на Пакровы (1 кастр.). У 1620 цэнтрам мястэчка была чатырохвугольная гандлёвая плошча, забудаваная дамамі рамеснікаў і гандляроў. На плошчы 5 крам, карчма і 23 мяшчанскія двары; усяго ў К. налічвалася 110 двароў. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 мястэчка некалькі разоў было спалена, асабліва спусташальна ў 1655. У 1791 у К. 134 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.



*Літ.*: Шпілеўскі І.Ф., Бабровіч Л.А. Гістарычны нарыс Дзяржыншчыны (Койданаўшчыны). Мн., 1932; Валаханович А.И., Кулагин А.Н. Дзержинщина: Прошлое и настоящее. Мн., 1986.

***Анатоль Валахановіч.***

**Койданаўская бітва 1249**, гл. *Кругагорская бітва.*

**Койданаўскі кальвінскі збор**. Пабудаваны ў мяст. *Койданава* ў 1613 К.*Радзівілам* Перуном на месцы стараж. гарадзішча (вядомы пад назвай Койданаўскага замка). Перабудаваны ў 1884. Мураваны прамавугольны ў плане храм зальнага тыпу з 5-граннай алтарнай апсідай (абапал мела 2 сакрысты) і 4-яруснай (2 ніжнія ярусы — чацверыкі, астатнія — васьмерыкі) вежай-званіцай. Асн. аб'ём, бакавыя сцены якога былі ўмацаваны контрфорсамі і прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, быў накрыты высокім 2-схільным гонтавым дахам, на якім узвышаўся купал з пазалочаным флюгерам. Вежа-званіца з гадзіннікам у верхнім ярусе завяршалася шатром, сцены прарэзвалі высокія арачныя вокны ў круглыя байніцы. Асн. аб'ём падзяляўся 4 васьміграннымі слупамі на 3 нефы, меў скляпеністыя перакрыцці. Каля алтара размяшчалася разная дубовая кафедра. У 2-м ярусе вежы былі хоры (выходзілі ў гал. неф храма балконам з размаляванай балюстрадай). Захоўвалася Берасцейская Біблія 1563. Тэрыторыя збору, абкружаная валамі і вадзяным ровам, была ўмацавана мураванай сцяной з 2-схільным гонтавым пакрыццём і 9 круглымі ў плане 2-яруснымі абарончымі вежамі (мелі па 6 байніц), завершанымі конусападобнымі дахамі. Праз роў да брамы быў пракладзены драўляны мост вянковай канструкцыі з размаляванай балюстрадай. На тэр. збору знаходзіўся 1-павярховы мураваны будынак плябаніі, накрыты гонтавым дахам, на асобным падвор'і — драўляныя будынкі кальвінскай школы (1641), шпіталя, жылыя і гасп. пабудовы. Комплекс у 1930-я г. разабраны, канчаткова зруйнаваны ў Вял. Айч. вайну; захаваліся рэшткі мураў.

*Літ.*: Адзярыха М. Апісанне Койданаўскага замка // Наш край. 1926. № 1; Якімовіч Ю. Ці быў у Койданаве замак? // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1985. № 3; Poklewski-Koziełł T. Bastejowy obwód obronny wokół zboru kalwińskiego w Kojdanowie na tle innych podobnych dzieł w dawnej Rzeczypospolitej Obojga Narodow // Час, помнікі, людзі. Мн., 1993; Кушнярэвіч А. Кальвінскі збор у Койданаве // Спадчына. 1994. № 2.

***Юрый Якімовіч.***



**Койданаўскі кальвінскі збор**. Малюнак Н.Орды.

**Кокс** (Coxe) Уільям (1747, Лондан—1828), англійскі гісторык і падарожнік. Вучыўся ў Кембрыджскім ун-це. Аўтар працы «Гісторыя аўстрыйскага двара» (1807), кніг пра Іспанію і Францыю. Двойчы наведаў Расію, у 1779 праязджаў праз Беларусь. У кнізе «Падарожжа праз Польшчу, Расію, Швецыю і Данію» (Лондан, 1784) апісаў выгляд гарадоў Гародня, Навагародак, Мір, Менск, Барысаў, Орша, вёсак і побыт іх жыхароў.

*Тв.*: Рус. пер. — По России и Польше в исходе XVIII в. (1779—1785): Путевые впечатления англичанина // Рус. старина. 1907. Т. 131—132, № 8—10, 12.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Адам Мальдзіс.***

**кола**, тэрытарыяльна-вайсковая адзінка шляхты ў 16—17 ст. У Троцкім пав. вядомы Даўгоўскае, Пералайскае, Мерацкае, Аліцкае і Неманойскае К.; у Ковенскім пав. — Пунскае, Дарсунішскае. Ахоплівала шляхту некалькіх блізкіх населеных пунктаў, якая служыла ў адной харугве. К. часам называлі акругу, павет.

*Літ.*: Sienkiewicz W. «Trakty», «okręg», «koła», «pola», «rody», «okolice» jako jednostki terytorialno-osadnicze w Wielkim Księstwie Litewskim // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3.

**Колінз** (Collins) Сэмюэл (?—да 1671), англійскі ўрач. Д-р медыцыны (1650). Медыцыне вучыўся ў Кембрыджы і Оксфардзе. У 1659 запрошаны ў Расію, да 1666 урач цара Аляксея Міхайлавіча. Пакінуў запіскі, у якіх шмат звестак пра царскі двор, побыт, гандаль, рэлігію, гарады і народы Расіі. Раздзелы 18-ы і 19-ы кнігі прысвечаны норавам шляхты Рэчы Паспалітай. К. адзначаў яе адукаванасць і гасціннасць, асуджаў п'янства і свавольства; змясціў звесткі пра хваробы, байку пра ўцёкі караля польскага і вял. князя літоўскага Генрыка Валезы і інш.

*Тв.*: Рус. пер. — Нынешнее состояние России, изложенное в письме к другу, живущему в Лондоне // Чтения в О-ве истории и древностей Российских. 1846. Кн. 1, отд. 3.

**кон**, 1) адзінка плошчы зямлі ў ВКЛ, уладальнікі якой павінны былі ў час вайны выставіць пэўную колькасць людзей для выканання конна-паштовай службы, абароны замкаў. У Слуцкім і Капыльскім княствах у 1662 адпавядаў 5 валокам, у Себежскім і Невельскім графствах у 18 ст. — 6 валокам. 2) Паласа зямлі, якую апрацоўвалі адным канём.

*Літ.*: Rychlikowa I. Deklasacja drobnej szlachty polskiej w Cesarstwie Rosyjskim // Przegląd Historyczny. 1988. Z. 1.

***Яўген Анішчанка.***

**Конан** Уладзімір Міхайлавіч (н. 23. 4.1934, в. Вераскава Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі філосаф, гісторык, літаратурны крытык. Д-р філасофскіх навук (1982). Скончыў гіст. ф-т БДУ (1959). У 1959—61 настаўнік і дырэктар Стражоўскай школы Вілейскага р-на. З 1962 у Ін-це філасофіі і права АН Беларусі: навук. супрацоўнік, заг. сектара эстэтыкі і сац. псіхалогіі. З 1991 заг. аддзела гісторыі і тэорыі культуры Нац. навук.-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. Даследуе тэарэтыка-метадалагічныя праблемы філасофіі і культуралогіі, гісторыю эстэтыч-



най думкі, пытанні фалькларыстыкі і літаратуразнаўства Беларусі. Дзярж. прэмія Беларусі 1984 за цыкл работ па гісторыі філасофіі і грамадскай думкі Беларусі (апубл. ў 1973—80).

*Тв.*: Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.). Мн., 1968; Демократическая эстетика Белоруссии (1905—1917 гг.). Мн., 1971; Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972 (разам з Э.Дарашэвічам); Адам Бабарэка: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1976; От Ренессанса к классицизму: Становление эстет. мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1978; Эстетическая мысль Советской Белоруссии. Мн., 1978; Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в. Мн., 1985; Ля вытокаў самапазнання: станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору. Мн., 1989; Боская і людская мудрасць: (Францішак Скарына: жыццё, творчасць, светапогляд). Мн., 1990; Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча. Мн., 1991.

**конегадоўля**, галіна жывёлагадоўлі па развядзенні свойскіх коней. Коні ў ВКЛ разводзіліся як цяглавыя і баявыя, апошнія паводле целаскладу і тэмпераменту падзяляліся на капійнічых (для цяжкаўзброеных вершнікаў) і стрэльчых (для лёгкаўзброеных). Мясцовая парода коней — літоўская (гестры, жамойцкія коні). Паходзілі ад лясных тарпанаў. Масць сівая, мышастая, радзей буланая, гнядая, з цёмнай паласой уздоўж хрыбта. Першапачаткова нізкарослыя (да 140 см у карку), але вельмі трывалыя, устойлівыя да хвароб, непатрабавальныя да кармоў, жвавыя. Выкарыстоўваліся ў лёгкаўзброенай конніцы, для варты, пошты, перавозкі грузаў і ў сельскай гаспадарцы. Харугвы вял. князя Вітаўта на літ. конях вылучыліся мужнасцю ў Грунвальдскай бітве 1410. З 16 ст. адбывалася паляпшэнне якасцей конскага пагалоўя і развіццё К. шляхам пашырэння імпарту коней розных парод. Каралева Бона ўвяла моду на мантуанскіх, неапалітанскіх і інш. італьянскіх коней. Заможная шляхта завозіла таксама іспанскіх верхавых коней (дзянетаў), для цяжкаўзброенай конніцы — фрызаў і дацкіх коней. Вельмі цаніліся і складалі племянную аснову многіх статкаў коні ўсх. крывей — турэцкія і персідскія аргамакі, арабскія (бадавіі). Найб. шматлікімі ў ВКЛ былі коні польскія, украінскія, падольскія, венгерскія, татарскія (бахматы). Нярэдка сустракаліся коні маскоўскія (зборная назва для трафейных ці набытых у Масковіі розных парод), чаркескія, паддунайскія. Статут ВКЛ 1588 (раздзел 13, арт. 1—4; раздзел 14, арт. 8, 25) ахоўваў коней як прыватную маёмасць, вызначаў парадак куплі-продажу і цэны на іх. Шляхецкі жарабец каштаваў ад 8 коп грошай, кабыла — ад 4 коп грошай. Добры баявы конь мог ацэньвацца даражэй за цэлую вёску. Буйнейшыя конскія кірмашы рэгулярна адбываліся ў Вільні, Міры, Зэльве, Дрысе, Шклове, Быхаве, Барысаве, Рэчыцы, Лоеве. К. вялася табунным спосабам. Найб. шматлікія племянныя статкі — велікакняжацкія, Хадкевічаў, Астрожскіх, Радзівілаў, Храптовічаў (у Шчорсах у 18 ст.), Чапскіх (у Станькаве), Рдултоўскіх (у Снове). Навучанне і іспыты коней даволі доўга праводзіліся ў палявых умовах, сакрэты коннай справы перадаваліся ў жывой традыцыі. Першы сістэмны дапаможнік па К. і ветэрынарыі «Гіпіка, альбо Кніга пра коней» напісаў і выдаў у 1603 у Кракаве вял. маршалак ВКЛ К.М.*Дарагастайскі*. Ён ухваляў Неапалітанскую вышэйшую школу коннай язды, раіў запрашаць замежных кавальскатораў (берэйтараў) для выездкі коней. Аднак манежная язда, дрэсура коней, конныя каруселі набылі папулярнасць толькі ў 18 ст.

*Літ.*: Czapski M. Historya powszechna konia. T. 2. Poznań, 1874; Wiłatowski J. Koń w życiu polskim. Warszawa, 1927; Cękalska-Zborowska H. Koń malowany. Warszawa, 1981.

***Святлана Ішчанка.***

**конная шляхта**, назва ў попісах войска ВКЛ 16 ст. і інш. афіцыйных дакументах *шляхты* (баяр), якая выконвала вайсковую павіннасць земскай службы на кані. Складала пераважную большасць войска ВКЛ і магнацкіх войск. Паводле попісу 1567—68 шляхта, якая мела маёнткі да 20 дымоў, склаладал амаль 80% усёй шляхты. Яна падзялялася на розныя катэгорыі. Паводле соймавай пастановы 1529 адна група К.ш. выстаўляла 1 каня ад 8 сял. службаў, другая — ад 1—7 службаў (конь і ўзбраенне маглі быць горшыя), трэцяя ўвогуле не мела падданых сялян («служба сваімі галовамі»).

*Літ.*: Русская историческая библиотека. Т. 33. Пг., 1915; Доўнар-Запольскі М. Социяльна-экономічная структура Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI—XVIII сталецьцях. // Гістарычна-археолёгічны зб. Мн., 1927. № 1; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**конны сойм**, у праектах шляхецкіх ідэолагаў Рэчы Паспалітай 17—18 ст. усеагульны збор шляхты, сенатараў і караля для вырашэння найб. важных дзярж. спраў. На К.с. павінна была збірацца ўся шляхта без выключэння «на конях» (г.зн. са зброяй), чым адхіляўся прынцып прадстаўнічай шляхецкай дэмакратыі, які дзейнічаў пры скліканні звычайных соймаў. К.с. павінен быў склікацца каралём, садзейнічаць захаванню шляхецкіх вольнасцей. Асобных пасяджэнняў Сената не прадугледжвалася; пытанне пра *ліберум вета* не закранылася. Тэрмін «К.с.» вядомы з 1666. Замяніў ідэю склікання *рокашаў*. Праобраз К.с. шляхецкія ідэолагі бачылі ў абозных соймах, што збіраліся ў час баявых дзеянняў ва ўмовах немагчымасці склікання звычайных соймаў. Часам К.с. атаясамліваўся з *паспалітым рушэннем* — усеагульным апалчэннем шляхты. Ідэя К.с. выспела як адзін са шляхоў пераадолення крызісу палітычнага развіцця дзяржавы, які быў вынікам засілля магнатаў і зрыву соймаў. Лозунг склікання К.с. прапаноўваўся рознымі шляхецкімі групоўкамі і каралямі ў ходзе барацьбы за палітычную ўладу і ўплыў. Напр., за такі сойм у канцы 17 ст. выступала шляхта ВКЛ з мэтай разграміць групоўку Сапегаў. Апошні раз ідэя склікання К.с. абмяркоўвалася ў 1768.

*Літ.*: Olszewski H. Sejm konny: Rzecz o funkcjowaniu ideologii szlacheckiej w dawnej Polsce // Czasopismo prawno-historyczne. 1985. Z. 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**конныя мяшчане**, група вайскова-служылых мяшчан у ВКЛ у 16—17 ст.; нашчадкі былых баяр, якія перасяліліся ў горад, але захавалі свае маёнткі і абавязак выконваць вайсковую земскую службу ў феад. апалчэнні свайго павета. У 16 ст. як асобная сац. група існавалі К.м. віцебскія (каля 100 сем'яў). Яны падзяляліся на 2 групы: жыхары Віцебска або яго прадмесця; жыхары Віцебскага ваяв. (выселіліся назад з горада). У прывілеі Віцебску на магдэбургскае права 1597 жыхары Ві-



цебска былі ўраўнаваны ў правах з інш. мяшчанамі. К.м., якія жылі ў маёнтках і сёлах («пасельскія»), 24.3.1626 атрымалі ад Жыгімонта III Вазы прывілей, паводле якога захавалі свае маёнткі, але былі пераведзены пад юрысдыкцыю ваяводы з-пад юрысдыкцыі гродскага і земскага судоў Віцебскага павета. Гэта невял. група займала прамежкавае становішча паміж сялянствам і шляхтай. Аналагічная невял. сац. група была ў Слуцку ў 1-й пал. 17 ст. Паводле статута Слуцка, выдадзенага К.Радзівілам 5.5.1621, усе купцы горада і багатыя мяшчане, што жылі ў дамах на Рыначнай плошчы, цэхмістры і сотнікі гар. апалчэння, павінны былі ствараць конны атрад апалчэння. Частку з іх таксама складалі нашчадкі баяр, што пасяліліся ў горадзе. Гэта група знікла да сярэдзіны 17 ст.

*Літ.*: Лаппо И. К истории сословного строя Великого княжества Литовского: Конные мещане витебские в XVI ст. // Сборник статей, посвященных В.О.Ключевскому. М., 1909; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**контррэфармацыя**, рэлігійна-палітычны рух у Еўропе ў 2-й пал. 16—17 ст., узначалены папствам і накіраваны супраць *Рэфармацыі*; форма ўмацавання феад. ладу ў эпоху яго распаду. Мела на мэце рэстаўрацыю пазіцый, страчаных каталіцтвам у шэрагу краін у 1-й пал. 16 ст. Ахапіла палітыку, ідэалогію, культуру.

Дактрыну і палітыку каталіцкай царквы эпохі К. вызначыў Трыдэнцкі сабор (1545—47, 1551—52, 1562—63), які адхіліў кампраміс з пратэстантамі, пацвердзіў безумоўны аўтарытэт пап у справах веры, замацаваў набажэнства выключна на лац. мове, жорсткую царк. цэнзуру. Усякае адхіленне ад пастаноў сабора разглядалася як ерась і падлягала ганенням. З мэтай рэстаўрацыі сваіх пазіцый папства звярнулася да арганізацыйнай і ідэйнай перабудовы касцёла. У 1542 у Рыме ўтворана інквізіцыя, якая разгарнула ў каталіцкіх краінах барацьбу з рэлігійным іншадумствам, рэфармацыйнымі плынямі. На кастры былі спалены Дж.Бруна і Дж.Ваніні, праследаваліся Т.Кампанела, Г.Галілей і інш., арганізоўваліся пагромы пратэстантаў (Варфаламееўская ноч у Парыжы 24.8.1572), рэлігійныя войны (Трыццацігадовая вайна 1618—48). У 1559 надрукаваны першы «Індэкс забароненых кніг». Створаны шэраг навуч. устаноў для падрыхтоўкі каталіцкіх місіянераў, якіх накіроўвалі ў краіны, дзе пачалася барацьба супраць Рэфармацыі. З 1577 кадры прапагандыстаў каталіцтва на ўсх.-слав. землях з іх ураджэнцаў рыхтаваў грэчаскі Афанасьеўскі калегіум у Рыме. У 1622 у Ватыкане створана Кангрэгацыя прапаганды веры, адказная за місіянерскую дзейнасць. Рэфармаваліся і ствараліся новыя манаскія ордэны. Гал. стаўку папства зрабіла на ордэн *езуітаў* (створаны І.Лаёлам у 1534).

У ВКЛ пачаткам К. лічыцца 1569, калі ў Вільню прыйшлі 13 першых езуітаў: паляк (паводле інш. звестак беларус) Станіслаў Варшавіцкі, харват Тамаш Здэлярыч, шатландзец Ян Гай, бельгіец Францішак Фабрыцыус, ірландзец Давыд Дымус і інш. Іх выклікаў віленскі біскуп В.*Пратасевіч* для барацьбы з Рэфармацыяй і арганізацыі ун-та ў сталіцы княства Вільні. Праз год у ВКЛ было ўжо 300 езуітаў. Талерантнасць дзяржавы стварала добры грунт для іх дзейнасці. У ахопленыя Рэфармацыяй бел. землі ордэн накіраваў дасведчаных місіянераў, багасловаў, прапаведнікаў і пісьменнікаў: П.*Скаргу* (гал. ідэолаг К. ў ВКЛ), Францішка Суньера, А.*Пасевіна*, Станіслава Влошака і інш. Акрамя місіянерска-прапаведніцкай дзейнасці езуіты выкарыстоўвалі прымусовыя і нават гвалтоўныя меры: закрывалі пратэстанцкія і правасл. школы і друкарні, учынялі пагромы, палілі кнігі апанентаў (упершыню ў 1581 у Вільні) і інш. У 16—18 ст. акрамя езуіцкага на тэр. Беларусі асталяваліся яшчэ інш. каталіцкія манаскія ордэны (у 16—17 ст. францысканцы адкрылі 17 кляштараў, дамініканцы—41, кармеліты—16, а таксама бенедыкцінцы, піяры і інш.). На Беларусі працэс К. па часе амаль супаў з Рэфармацыяй, што стала прычынай асабліва напружанай барацьбы. Аднак выпрацаваныя стагоддзямі раней нормы рэлігійнай талерантнасці не дапусцілі тут такіх жудасных і агідных форм, як у Зах. Еўропе. К. ў ВКЛ была накіравана не толькі супраць пратэстантызму, але і супраць праваслаўя. Бел. землям у планах Рыма адводзілася роля плацдарма для пранікнення ў Маскоўскую дзяржаву (гэты план выкладзены ў працы Пасевіна «Масковія»), а праз яе — далей у Азію, да Індыі і Кітая. Папа Клімент VIII так заяўляў пра гэта: «О, мае русіны! Спадзяюся праз вас перавярнуць у каталіцтва ўвесь Усход!». Польскія духоўныя і свецкія ўлады імкнуліся ў ходзе К. ліквідаваць поліканфесіянальны характар ВКЛ і ўмацаваць дзярж.-палітычнае адзінства Рэчы Паспалітай. Актыўна падтрымлівала К. каралеўская ўлада. Стафан Баторый гаварыў: «Калі б я не быў каралём, то быў бы езуітам». Граматай ад 27.3.1577 ён забараніў будаваць у Вільні некаталіцкія храмы і школы. Жыгімонт III называў сябе езуіцкім каралём. На хвалі К. нарадзілася *Берасцейская унія 1596* і створана уніяцкая царква. Супраць каталіцкай экспансіі былі вымушаны разам змагацца пратэстанцкія абшчыны і праваслаўныя брацтвы, іх пісьменнікі-палемісты. У 1599 акт аб узаемнай дапамозе супраць ваяўнічага каталіцтва падпісалі 168 бел. і літ. правасл. і пратэстанцкіх магнатаў і шляхціцаў. Супраціўленне гвалтоўнаму акаталічванню і насаджэнню уніяцтва не раз вылівалася ў нар. выступленні і паўстанні (выступленні супраць увядзення грыгарыянскага календара ў Полацку ў канцы 16 ст., *Віцебскае паўстанне 1623*; антыкаталіцкую накіраванасць мела *антыфеадальная вайна 1648—51*). Хоць у абставінах рэлігійнай барацьбы ў Статут ВКЛ 1588 быў унесены артыкул аб верацярпімасці, аднак гэта фактычна не змяніла сітуацыі. З цягам часу К. перамагла, рэлігійная талерантнасць ВКЛ паступова скасавана. Асаблівым ганенням з боку каталіцкай царквы і дзяржавы падлягалі *антытрынітарыі*. Прыгаворам соймавага суда 1647 былі закрыты ўсе іх друкарні і школы, у 1648 яны пазбаўлены апекі акта *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*, а сойм 1658 прыгаварыў іх да выгнання з Рэчы Паспалітай. Пад націскам К., дзярж. санкцый, з-за ўнутраных супярэчнасцей і адсутнасці адзінства ў канцы 16 ст. рэфармацыйны рух у ВКЛ пачаў паступова згасаць. Найб. адчувальная да палітычнай кан'юнктуры кальвініцкая шляхта ў новых умовах стала пераходзіць у каталіцтва. Яе гнаў туды таксама страх перад нарастаючай хваляй нар. рухаў і радыкалізм Рэфарма-

цыі. Большасць пратэстанцкіх і правасл. бел. феадалаў да пач. 17 ст. кансалідавалася з польскімі на аснове каталіцтва. М.Смагрыцкі ў творы «Фрынас» (1610) назваў 47 магнацкіх правасл. родаў, якія далучыліся тады да рымска-каталіцкай царквы (Сапегі, Валовічы, Храптовічы, Сангушкі, Скуміны, Чартарыйскія і інш.). Прынялі гэту веру і 4 сыны пратэктара Рэфармацыі ў ВКЛ М.*Радзівіла* Чорнага (адзін з іх, М.К.*Радзівіл* Сіротка, прымусіў кальвіністаў пакінуць Нясвіж, Клецк, Ішкалдзь, Койданава), дзеці і ўнукі «стаўпа праваслаўя» К.К.*Астрожскага*. Мала схільнай да каталіцтва была дробная правасл. шляхта, аднак у 17 ст. большая яе частка прыняла унію. У 1660 у Рэчы Паспалітай католікі складалі 43%, уніяты — 33, праваслаўныя — 10, іудзеі — 9 і інш. — 5% ад колькасці ўсіх жыхароў дзяржавы. Наступ К. працягваўся і ў 2-й пал. 17—18 ст. пасля разгрому рэфармацыйнага руху. Сойм 1668 адступніцтва ад каталіцтва прыраўняў да злачынства, якое цягнула за сабой выгнанне з краіны, а ў 1764 вынес рашэнне караць за гэта смерцю. Соймавай пастановай 1712 забаранялася замацоўваць дзярж. пячаткай дакументы, якія прадугледжвалі якую б ні было карысць для асоб некаталіцкага веравызнання. «Пастырскае пасланне» 1717 і рашэнні сойма 1733 пазбавілі правасл. шляхту і духавенства права займаць пасады ў сенаце, сойме, судах і інш. дзярж. установах. З 1673 па 1790 колькасць каталіцкіх прыходаў на Беларусі павялічылася з 153 да 277. У езуіцкіх колах выношваўся план поўнага знішчэння іншаверцаў. У 1717 абнародаваны «Праект знішчэння Русі», у якім невядомы аўтар (магчыма, езуіт А.Кулеша) прапанаваў вытанчаную праграму барацьбы з праваслаўем і уніяцтвам, якое не апраўдвала надзей як сродак паланізацыі бел. і ўкр. народаў. Не ўдалося канчаткова задушыць праваслаўе з-за выдадзеных каралём Уладзіславам IV «Артыкулаў для заспакаення рускага народа» (1633), што ўзаконьвалі існаванне правасл. царквы, а таксама з-за пастаянных патрабаванняў рас. ўрада аб спыненні ганенняў на праваслаўных. У канцы 18 ст. праваслаўныя складалі 6,5% насельніцтва Беларусі, уніяты — 75% (у сельскай мясцовасці 80%).

Ідэі К. вызначалі духоўнае жыццё ВКЛ амаль да сярэдзіны 18 ст. У 2-й пал. 17—1-й трэці 18 ст. адбывалася амаль поўная клерыкалізацыя культуры і падпарадкаванне яе рэлігіі. Навук. веды абвяшчаліся грахоўнымі. Былі страчаны многія выдатныя дасягненні навукі і культуры папярэдніх стагоддзяў. У параўнанні з эпохай Адраджэння ўзровень адукацыі панізіўся. У аснову навучання былі пакладзены тэалогія, схаластычная філасофія і лацінская мова. Выдавалася пераважна клерыкальная л-ра на лацінскай і польскай мовах. У філасофіі непадзельна панавала схаластыка. У поглядах на мінулае і ў сацыялогіі адраджаліся правідэнцыялізм, затухаў радыкалізм грамадска-палітычнай думкі. Спробы развіцця нерэлігійнай філасофіі праследаваліся, пра што сведчыць трагічны лёс К.*Лышчынскага*. К. не спрыяла станаўленню бел. культуры ў яе нац. формах. На змену добраахвотнай паланізацыі папярэдняга часу ў 17 ст. прыйшла прымусовая (выцясненне бел. мовы з афіц. справаводства ў 1697). Масавая паланізацыя пануючага класа Беларусі праз акаталічванне ў 17 ст. ўскладніла працэс кансалідацыі бел. народнасці, запаволіла фарміраванне яе самасвядомасці. Аднак у выяўленчым мастацтве ўздзеянне К. не было такім адмоўным, як у л-ры і грамадска-філасофскай думцы. Пануючым стылем стала *барока*, якое адпавядала імкненню К. да пышнасці, пампезнасці, уздзейнічала на пачуцці вернікаў сінтэзам розных відаў мастацтва. Найб. поўна яно выявілася ў манументальнай архітэктуры.

У 1730—40-я г. на змену К. прыйшла эпоха *Асветніцтва*. У ранейшай гістарыяграфіі К. ацэньвалася адназначна адмоўна як рэакцыйныя, дэнацыяналізатарскія тэндэнцыі і засілле рэлігійнай ідэалогіі. Панаваў пагляд, што К.ператварыла Беларусь у канцы 17 ст. амаль што ў інтэлектуальную пустыню. Аднак гэта не зусім так. Складанасць і супярэчлівасць эпохі, наднацыянальная неаднароднасць культуры Беларусі 17—18 ст., яе полілінгвістычнасць, інтэграванасць у сістэму культуры Рэчы Паспалітай, бесперапыннасць працэсу фарміравання нац. асаблівасцей л-ры, навукі, філасофіі і мастацтва ва ўмовах перавагі касмапалітычных тэндэнцый даюць падставу гаварыць аб шматзначнасці духоўна-культурнай функцыі К. на Беларусі.

*Літ.*: Tazbir J. Nietolerancja wyznaniowa i wygnanie arian. Warszawa, 1957; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971; Яго ж. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстет. мысли в Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1978; Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.). Мн., 1980; Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.

***Святлана Марозава.***

**Концэ** (Conze) Вернер (31.12.1910, г. Нойгаўз-на-Эльбе, Германія — 28.4. 1986), нямецкі гісторык. Д-р габілітаваны (1940), праф. звычайны (1956). Вучыўся ва ун-тах Марбурга, Лейпцыга, Кёнігсберга. З 1935 асістэнт у Кёнігсбергскім ун-це. У 1946 узначаліў кафедру сацыяльнай і гаспадарчай гісторыі Гётынгенскага ун-та, з 1951 у Мюнстэрскім ун-це, з 1957 праф. навейшай гісторыі Гайдэльбергскага ун-та, у 1969—70 яго рэктар. У 1972—76 старшыня Саюза нямецкіх гісторыкаў. Вывучаў гісторыю нямецкага насельніцтва на тэрыторыі Латвіі («Гіршенгоф: гісторыя нямецкамоўнай выспы ў Лівоніі», 1934). Разглядаў у гіст. і сучасным аспекце бел. праблематыку ў Польшчы («Беларускае пытанне ў Польшчы», 1939). Праца «Аграрнае заканадаўства і насельніцтва ў Літве і Беларусі. Т. 1. Валочная памера ў былым Вялікім княстве Літоўскім» (1940) прысвечана аграрнай рэформе сярэдзіны 16 ст. і дэмаграфічнай сітуацыі ў ВКЛ. Даследаваў пераўтварэнні, што наступілі ў выніку правядзення рэформы, прааналізаваў гісторыю гаспадаркі ВКЛ да канца 18 ст. Першы зрабіў падлікі вясковага насельніцтва Літвы і Беларусі на аснове попісу войска ВКЛ 1528. Апублікаваў планы маёнткаў і схемы, якія ілюстравалі змены ў вёсцы ВКЛ. У пасляваенны час займаўся параўналь-



ным даследаваннем гісторыі сац. адносін у шырокім еўрапейскім кантэксце. Быў прыхільнікам гіст. структуралізму, зблізіўся з школай «Аналаў» і стаў адным з гал. папулярызатараў яе канцэпцый у Германіі. Займаўся гісторыяй Германіі, Польшчы, гісторыяй адносін Германіі і Расіі. Апублікаваў рукапісныя нататкі К.Маркса па гісторыі Рэчы Паспалітай і пра «польскае пытанне» ў 19 ст. (1961). Заснаваў выдавецкую серыю «Нямецкая гісторыя ва Усходняй Еўропе» («Deutsche Geschichte im Osten Europas»). Пасмяротна выйшла яго праца «Цэнтральна-Усходняя Еўропа ад позняй антычнасці да 18 ст.» (1992), у якой значная ўвага аддадзена гісторыі ВКЛ.

*Тв.*: Hirschenhof: Die Geschichte einer deutschen Sprachinsel in Livland. Berlin, 1934; Die weißrussische Frage in Polen. Berlin, 1939; Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weißrußland. T. 1. Die Hufenverfassung im ehemaligen Grossfürstentum Litauen. Leipzig, 1940; Bauernbefreiung und Städteordnung. Stuttgart, 1956; Die Strukturgeschichte des technisch-industriellen Zeitalters als Aufgabe für Forschung und Unterricht. Köln, 1957; Ostmitteleuropa von der Spätantike bis zum 18. Jahrhundert. München, 1992.

*Літ.*: Soziale Bewegung und politische Verfassung. Beiträge zur Geschichte der modernen Welt: Werner Conze zum 65. Geburtstag. Stuttgart, 1976; Kamieński A. Werner Conze // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3.

***Алег Дзярновіч.***

**конь**, 1) баявая адзінка ў войску ВКЛ у 13—15 ст. Складалася з конніка, яго збраяносца і пахолкаў (слуг), якія дапамагалі конніку рыхтавацца да бою, а часта і ў баі. Уся група адпавядала баявой адзінцы ў Зах. Еўропе — рыцарскаму кап'ю. К. вёў бой самастойна і ў складзе атрада. З 16 ст. К. замяняюцца коннымі атрадамі (початамі) з аднолькавым узбраеннем. 2) Умоўная адзінка зямлі з сялянамі, з якой шляхта і інш. ваенна-служылае насельніцтва ВКЛ павінны былі выстаўляць у войска аднаго конніка. Павіннасць фіксавалася ў попісах войска ВКЛ. Спачатку землеўласнік выстаўляў конніка ад 8, потым ад 10 сял. службаў. У больш позні час паняцце «К.» захавалася ў магнацкіх латыфундыях для ваенна-служылай шляхты і зямян, у 16—18 ст. звычайна К. раўняўся 5 валокам (каля 107 га), мог быць і меншым (да 3 валок). Павелічэнне шляхецкага насельніцтва вяло да драблення ўчасткаў і калектыўнага выканання воінскай павіннасці: адзін выходзіў на кані, а іншыя (чыншавая шляхта) удзельнічалі ў забеспячэнні службовага зямяніна зброяй, вайсковай формай і інш.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Хозяйственное и правовое положение военно-служилого населения в Слуцком княжестве в XVI—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962 г. Мн., 1964; Яго ж. Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV—XVI) // Первый Литовский Статут 1529 г.: (Материалы респ. науч. конф., посвящ. 450-летию Первого Статута). Вильнюс, 1982.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Копаць** Юзаф (1758?, Пінскі пав.—1827?), вайсковы дзеяч, паўстанец, мемуарыст. З роду *Копцяў*. Атрымаў дамашнюю адукацыю. З 1774 у войску. Відаць, 2 гады вучыўся ў кадэцкім корпусе. З 1776 у 2-й брыгадзе нац. кавалерыі ў Пінску. У 1781 камандзіраваны на турэцкую граніцу. У 1789 харужы, у 1789—91 падпаручнік, з 1791—93 паручнік, камандзір эскадрона 19-й харугвы булавы польнай літоўскай. Удзельнічаў у абарончай вайне 1792 супраць Расіі (магчыма, ваяваў пад Мірам). Пасля перамогі Расіі і Таргавіцкай канфедэрацыі брыгада адведзена на Украіну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай яна ўключана ў рас. армію над назвай Дняпроўская брыгада, дысладыравана ў раёне Житоміра і Оўруча. К. удзельнічаў у падрыхтоўцы *паўстання 1794*. У крас. 1794 на чале некалькіх эскадронаў з-пад Оўруча рушыў пад Крэменец. У складзе групы палкоўніка С.Граноўскага адышоў за Буг. Марш брыгады К. набыў значны розглас і значна садзейнічаў мабілізацыі паўстанцкіх сіл. Удзельнічаў у бітвах пад Дубенкай, Мікалаевам, Голкавам, у абароне Варшавы ад прускіх войск. Узнагароджаны залатой табакеркай і залатым пярсцёнкам з надпісам «Айчына — свайму абаронцу», атрымаў ранг віцэ-брыгадзіра, пасля — брыгадзіра. У бітве пад Мацяёвіцамі паранены і трапіў у палон. У Смаленску асуджаны як дэзерцір. Указам Кацярыны II сасланы на Камчатку, у 1796 амніcціраваны Паўлам I. Пасля вяртання на радзіму жыў на Валыні, у Вільні, Нясвіжы, Варшаве, сваім маёнтку Лушнёва Браслаўскага пав. і інш. У 1821 далучыўся да масонскай ложы «Руплівы літвін». Гады высылкі апісаў у мемуарах, напісаных пры дапамозе сакратароў (захаваліся вял. і малая версіі); упершыню выдадзены пад назвай «Дыярыуш» у Вроцлаве ў 1837. У гэтым творы К. даў звесткі пра Сібір і Камчатку, іх прыроду, народы (камчадалаў, чукчаў, якутаў, буратаў) і інш. У гады высылкі К. зрабіў шмат малюнкаў з натуры, карты Сібіры і Камчаткі. Памёр і пахаваны ў Лушнёве.

*Тв.*: Dziennik Józefa Kopcia brygadiera wojsk polskich / Z rękopisu Biblioteki Czartoryskich opracowali i wydali Antoni Kuczyński i Zbigniew Wójcik. Warszawa; Wrocław, 1995; Рус. пер. — Записки бригадира Иосифа Копця // Ист. вестник. 1896. № 10—12.

*Літ.*: Грицкевич В.П. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986.

***Валерый Пазднякоў.***

**копны суд**, старажытны суд *грамады*. Узнік як нар. суд і да з'яўлення пісанага права быў заснаваны на традыцыі. Да канца 16 ст. характэрны толькі для бел. земляў ВКЛ. Члены Віленскай археагр. камісіі для падрыхтоўкі тома дакументаў, прысвечанага К.с., прагледзелі каля 300 актавых кніг берасцейскага, вількамірскага, ваўкавыскага, гарадзенскага, ковенскага, лідскага, менскага, мазырскага, навагародскага, пінскага, расейнскага, слонімскага, слуцкага, троцкага і упіцкага гродскіх судоў за 1560—99 і прыйшлі да высновы, што абсалютная большасць сведчанняў аб існаванні К.с. адносіцца да тэр. Беларусі. У матэрыялах вількамірскага, ковенскага, расейнскага і упіцкага гродскіх судоў не было знойдзена ніякіх звестак пра К.с. У 16 ст. К.с. заканадаўча замацаваны як адзін з ін-таў судовай сістэмы. У Статуце ВКЛ 1588 абвешчана: «А на Руси и инде, где здавна копы бывали, там мают быти и тепер копы отправованы на старых коповищах тым обычаем, яко первей того бывало. А на тых теж местцах, где досель копы не бывали, таковым же порядком и поступком копы збираны и отправованы быти мають, яко ся и на Руси заховывало и заховуеть». Прызначаліся пастаянныя месцы, дзе магла збірацца *капа*. Вызначэнне такіх месцаў ускладалася Статутам на *падкаморыяў*: «А естли бы укривжоный злодейством хотел шкоды своее доходити копою, тог-



ды вси в той околицы вокол на милю со всих чотырех сторон мають казати подданым своим на копу сходиться, а то ся маеть розумети вперед не тые местца, где досимест копы не бывали, которые коповища кождый подкоморий в повете своем назначити и села тых, хто ся там становити будеть, описати маеть». У 1590 гарадзенскі падкаморы Р.Масальскі выдаў ліст, які рэгламентаваў правілы склікання коп і вызначаў месцы капавішчаў на тэр. Гарадзенскага пав., а троцкі падкаморы Б.Агінскі ў тым жа годзе прызначыў месцы капавішчаў у Троцкім ваяв. Такім чынам, дзяржава не толькі заканадаўча аформіла існаванне судоў грамады, але пашырыла іх дзейнасць на тэр. ўсяго ВКЛ. З гэтага часу капа, якая збіралася не на прызначаным уладамі месцы, магла лічыцца неправамоцнай.

Капа звычайна збіралася за вёскай, у лесе ці на мяжы з суседняй абшчынай. Падкаморыі прызначалі больш зручныя для кантролю з боку ўлад месцы капавішчаў — пры рынках, цэрквах і касцёлах. Так, з 60 капавішчаў, вызначаных у 1590 у Гарадзенскім пав., 33 былі пры касцёлах, 17 — пры цэрквах, 5 — пры гаспадарскіх дварах, 3 — пры рынках і толькі 2 — «под гаем березовым». У К.с. ўдзельнічалі простыя сяляне (мужы) і кіраўнікі сял. абшчын — *старцы*. Абавязковай была прысутнасць упаўнаважанага ад земскага суда — *вознага*, альбо інш. прадстаўніка земскага ці гродскага суда (часцей за ўсё гэта быў *віж*). Апошні абавязкова заносіў сваю справаздачу (квіт) пра ўдзел у К.с. ў актавую кнігу земскага ці гродскага суда. З гэтага моманту рашэнне К.с. набывала юрыд. моц.

Суд грамады ў першую чаргу вырашаў пытанні, звязаныя з праблемамі простых жыхароў воласці, але ў шэрагу выпадкаў у якасці суб'ектаў судовага працэсу маглі выступаць і шляхціцы, калі гэта тычылася іх непасрэдных інтарэсаў. Калі шляхціц ці мешчанін абвінавачваўся ў здзяйсненні злачынства на тэрыторыі, падсуднай К.с., ён таксама падпадаў пад прысуд капы. Звычайна гэта была дробная шляхта, лад жыцця якой мала чым адрозніваўся ад побыту суседняга сялянства. К.с. маглі разглядаць любыя справы аб злачынствах, здзейсненых на падсуднай ім тэрыторыі ў радыусе прыблізна 2—3 мілі (15—20 км). Найчасцей капа разглядала справы аб крадзяжах, патравах, псаванні борцяў і забранні мёду з іх, бойках, рабаваннях на дарогах, маёмасныя і межавыя спрэчкі сярод сялян і інш. Судаводства мела звычайную і гвалтоўную формы. Звычайная капа збіралася па ініцыятыве зацікаўленых асоб у загадзя вызначаны тэрмін, найчасцей прымеркаваны да рэлігійнага свята. Гвалтоўная (гарачая) капа збіралася звычайна на месцы злачынства ў выпадку забойства, падпалу, нападу, калі пацярпелы «падымаў гвалт». Капа ажыццяўляла адначасова судовыя і следчыя функцыі. Удзельнікі К.с. самі праводзілі расследаванне, пры неабходнасці адшуквалі злачынцу («гналі след»). Следства на капе вялося звычайна на 3 пасяджэннях (у некаторых выпадках, калі справу не ўдавалася расследаваць за гэты час, збіралася і больш). Апошняе пасяджэнне называлася «завітой капой», на якой «завівалася» (завяршалася) справа. Следства абапіралася на матэрыяльныя доказы і паказанні сведкаў. Калі капа не магла знайсці доказаў злачынства і адсутнічалі сведкі, падазронаму прапаноўвалі самому прызнацца ў здзяйсненні злачынства. Калі ён не прызнаваўся, прымянялася катаванне («проба», «мука»). Першы допыт рабіўся з дубцом. Калі і пасля гэтага абвінавачаны не прызнаваўся, яго маглі катаваць агнём. У некаторых выпадках допыт вёў спецыяльна запрошаны *кат*. Прысуд капы залежаў ад вінаватасці злачынцы, памераў учыненай ім шкоды. Капа магла прыгаварыць і да смяротнага пакарання, звычайна з дапамогай шыбеніцы. Вядомы выпадкі, калі капа прысуджала злачынцаў да чвартавання і спалення. Рашэнні К.с. абавязкова заносіліся ў актавыя кнігі земскіх альбо гродскіх судоў, лічыліся канчатковымі і, як правіла, выконваліся адразу. Возны, альбо віж, які прысутнічаў на К.с., мог затрымаць выкананне яго рашэння.

Дзейнасць К.с. спынілася пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі і ўвядзення сістэмы сельскага абшчыннага кіравання (сельскія таварыствы), якая не прадугледжвала права сялян на ажыццяўленне судовых функцый. К.с. былі характэрнай з'явай у Беларусі і паўплывалі на фарміраванне своеасаблівых рыс бел. этнасу.

*Літ.*: Шолкович С. О копных судах // Сб. статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России. Вильна, 1887. Вып. 2; Спрогис И. Предисловие // Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. 18. Акты о копных судах. Вильна, 1891; Бобер І.М. Ліст падкаморага гарадзенскага Грыгорыя Масальскага насельніцтву Гарадзенскага пав. аб правілах склікання коп і прызначэнні месцаў капавішчаў // Архіварыус. Мн., 2001. Вып. 1; Голубеў В. Абшчынны (копны) суд у сістэме судовага ладу Беларусі XVI—XVIII ст. // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця. Гродна, 2003. Ч. 1.

***Валянцін Голубеў.***

**Копцi**, шляхецкі род герба «Роля» («Крое») зменены. Родапачынальнік Копаць у 1447—53 служыў «рускім» пісарам у Казіміра IV Ягелончыка. У 15 ст. род падзяліўся на смаленскую і віцебскую лініі. Браты Васіль і Іван Іванавічы К. валодалі дзедзічнымі маёнткамі Рослаўскае і Аргошчынскае. Казімір падараваў ім маёнтак Шумяцічы ў Смаленскім пав. (падараванне пацвердзіў у 1501 вял. князь Аляксандр баярыну Сідару Васілевічу). Васіль Іванавіч упамінаецца як каралеўскі дваранін у 1511. Сынам Івана Іванавіча Юрыю і Міхаілу Жыгімонт I даў 30 людзей і 8 ненаселеных вёсак у Браслаўскім пав. Міхаіл са смаленскіх уладанняў у пач. 16 ст. ставіў у войска ВКЛ 3 коннікаў і ў 1528 — 38 коннікаў. Найб. вядомыя:

Сідар Васілевіч (Копаць Васілевіч; ?—1531), сын Васіля Іванавіча. З 1506 служыў у вялікакняжацкай канцылярыі Аляксандра і Жыгімонта I як «рускі» пісар, у 1524 — у канцылярыі каралевы Боны Сфорца, з 1520 адначасова маршалак гаспадарскі; намеснік жыжмарскі ў 1510, перавальскі ў 1516, дзяржаўца медніцкі ў 1527, потым дарсунішскі. Атрымаў ад Аляксандра шматлікія зямельныя падараванні. Са сваіх маёнткаў у 1528 ставіў у войска 28 коннікаў.

Богуш (?—1611), сын Барыса. Ротмістр каралеўскі ў 1564, браслаўскі пісар земскі ў 1578, паборца ў 1580, падкаморы ў 1590, маршалак у 1597.

Лукаш Васілевіч (?—1621), берасцейскі падкаморы ў 1612, кашталян з 1615.

Васіль Васілевіч (?—лют. 1636), падкаморы берасцейскі, з 1626 кашталян навагародскі.



Ян Кароль (?—1.5.1681), сын Васіля Васілевіча. У 1630—40-я г. вучыўся ў Навадворскай акадэміі ў Кракаве, Кракаўскай акадэміі, Падуанскім ун-це. Пасол на соймы 1648, 1650, 1653. Староста берасцейскі ў 1652—65 і 1670—80. Чашнік ВКЛ у 1656—58, падстолі ВКЛ у 1658, ваявода полацкі з 1658. У палітычнай дзейнасці цесна звязаны з ваяводам віленскім і вял. гетманам ВКЛ П.Я.Сапегам, нясвіжскім ардынатам М.К.Радзівілам. У 1664—65 падтрымліваў групоўку Пацаў, выступаў разам з імі за пажыццёвае абранне караля. У 1660-я г. стаў дзяржаўцам дрыскім, бельскім, ковенскім, атрымаў Гарадзенскую эканомію. Незадаволеная ім полацкая шляхта выступіла ў падтрымку Б.Радзівіла, прызначанага полацкім ваяводам яшчэ ў 1654; спрэчка паміж імі скончылася пераводам у 1670 Яна Караля на пасаду кашталяна троцкага.

Францішак Аляксандр (?—пасля 1709), сын Лукаша. Кашталян берасцейскі ў 1643—51, у 1648 удзельнічаў у выбранні каралём Яна II Казіміра.

Юзаф (1762—1827), гл. *Копаць* Ю.

*Літ.*: Копаць М. Генеалогія роду Копацяў герба «Кроі» // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы VI-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 150-й гадавіне з дня нараджэння браслаўскага лекара, грамадскага дзеяча Станіслава Нарбута (1853—1926). 7—8 мая 2003 г. Браслаў, 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Копыскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Копысь*, быў яго ваенна-адм. цэнтрам. Размяшчаўся на ўзвышаным левым беразе Дняпра, на месцы старажытнага дзядзінца. Засталося гарадзішча, круглаватае ў плане (каля 0,5 га), уваход быў з усх. боку. У ходзе археал. даследаванняў зафіксаваны 2 будаўнічыя этапы. Першапачатковы вал быў насыпаны з дробнага пяску з гумусавымі праслойкамі, што сведчыць пра існаванне раней неўмацаванага паселішча. Першапачатковы вал вышынёй каля 5 м узведзены ў 2-й пал. 11—пач. 12 ст. Пазней яго расшырылі і падсыпалі ўверх яшчэ на 2 м. Перыметр вала склаў 370 м, памеры ўнутр. пляцоўкі — 80 x 60 м. У 16—18 ст. важную ролю ў планіровачнай структуры ўмацаванняў Копысі адыгрывалі невял. рэкі Страшаўка і Сморкаўка, якія абгіналі замак з 2 бакоў і ўпадалі ў Дняпро. Вусце Сморкаўкі было перагароджана дамбай, а воды абедзвюх рэк, падпёртыя плацінай млына, утваралі штучнае вадасховішча. Млын ахоўваў подступы да замка з Пд, У і ПнУ. Праезд у К.з. ішоў па запрудзе млына, якая падводзіла да пад'ёмнага моста перад замкавай брамай. Паводле інвентару Копысі за 1651, у замку былі 2 брамы з «форткамі» — вялікая для ўезду з боку горада і моцна нахіленая («опавшая») вежападобная, якая стаяла над Дняпром і патрабавала рамонту. Пэўную ролю ў абароне К.з. выконваў і вял. 2-павярховы дом, «розным маляваннем помалёванный», і абведзены кругом галерэяй верхняга бою — «бланкованьем». Усе гэтыя пабудовы былі абнесены частаколам. У 1668 пачаліся вял. работы па рэканструкцыі ўмацаванняў К.з. і запруды млына, дзякуючы якой замкавы «капец вада наўкола аблівала». Замак умацавалі земляным валам і 4 бастыёнамі — «больверкамі» (у 1668 тры з іх былі ўжо ўзведзены, а будаўніцтва 4-га заканчвалася). Была пакінута толькі адна ўязная брама, перад якой размяшчаліся пад'ёмны мост і вадзяны млын. Работы па перабудове ўмацаванняў К.з. працягваліся ў 1670 і 1688. На той час тут меліся 4 гарматы, 22 жалезныя гакаўніцы, 4 мушкеты, запас пораху, свінцу, ядраў, куль, а таксама харугва з малінавага шоўку Б.Радзівіла. У час *Паўночнай вайны 1700—21* рас. войскі, якія адступалі на Пд, у 1707 поўнасцю спалілі Копысь, замкавыя ўмацаванні і забралі ўсю зброю з арсенала. Сярод праведзеных рас. войскамі ў Паўн. вайну фартыфікацыйных работ у Копысі інвентары згадваюць толькі ўзвядзенне штыкету на земляным вале. Інвентары Копысі 1726—73 удакладняюць планіроўку замка і паведамляюць пра элементы яго ўмацаванняў: 4 бастыёны, драўляныя сцены (палісад), якія рэгулярна рамантаваліся. Уязная драўляная вежа-брама мела двайныя вароты з магутнымі запорамі. Яе 2-і паверх займала зала з 4 вокнамі, вакол якой была зроблена кругавая галерэя верхняга бою. Памяшканне залы выкарыстоўвалася для захоўвання ручной агністрэльнай зброі, у якасці лямуса, а таксама для богаслужэння. Вежа была накрыта гонтам. Яе завяршаў бляшаны флюгер у выглядзе арла. Пасля 1772 умацаванні К.з. больш не аднаўляліся і з цягам часу зніклі.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

**Копысь** (цяпер гар. пасёлак у Аршанскім р-не Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Віцебскім ваяв. Упершыню ўпамінаецца ў Ніканаўскім летапісе пад 1059. У 1-й пал. 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 14—18 ст. існаваў *Копыскі замак*. У пач. 16 ст. горад ва ўладанні князёў Астрожскіх. У 1594 у якасці пасагу княжны Кацярыны Астрожскай перайшоў да Радзівілаў. У 1695—1744 належаў да «*Нойбургскіх маёнткаў*». Паводле некаторых звестак, К. мела мела магдэбургскае права. Да замка з 3 прымыкалі гандл. плошча, на якой стаялі 80 крам, царква, вадзяны млын. Уздоўж дарогі на Оршу размяшчаліся кальвінскі збор з плябаніяй (пабудаваны ў 16 ст. Крыштофам Радзівілам), Святадухаўская царква, карчма. Абнесены астрогам і ўмацаваны гароднямі горад меў 6 брам, да якіх вялі гал. вуліцы. У 1651 у горадзе 384 двары (з іх 113 у прадмесцях), у 1663 — 17 вуліц. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 мясцовае насельніцтва пад уздзеяннем манахаў Куцеінскага манастыра 13.5.1654 здало дрэнна ўмацаваны горад войску Замятні Лявонцьева. Барон А.Маерберг, праязджаючы ў вер. 1661 праз Копысь, адзначыў, што горад абараняўся драўляным замкам. У час Паўночнай вайны 1700—21 рас. войскі ў 1707 поўнасцю спалілі Копысь і замкавыя ўмацаванні. У 1759 у К. 22 вуліцы, 369 двароў; у Аршанскім прадмесці 135 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Шынкевіч А.М. Аршанская даўніна. Мн., 1992.

**«Кораб»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася каля 180 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Ажэшкі, Дамброўскія, Дзяконскія, Ласкія, Русоцкія, Эйсманты. У чырвоным полі залаты карабель з ільвінымі галовамі спераду і ззаду і мураванай вежай з зубцамі; клейнод — над прылбіцай з каронай такі ж карабель з вежай. У Польшчы вядомы з канца 13 ст., спачатку меў выяву карабля з мачтай і ветразем.



Герб **«Кораб»**.

**Корань** Васіль (каля 1640, мяст. Дуброўна Аршанскага пав.—пач.18 ст.), графік. У маладым узросце ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* вывезены ў Расію. У Маскве стаў разьбяром-гравёрам. У 1692—96 надрукаваў Біблію ў карцінках, аналагічную зах.-еўрап. «Бібліям для бедных». Яна ўключае серыю размаляваных гравюр з подпісамі (кнігі Быццё і Апакаліпсіс). Аснову кампазіцый К. узяў з Бібліі Піскатара і інш. зах.-еўрапейскіх выданняў, але па выкананні гэта быў самабытны твор, у якім адбіліся традыцыі рус. іканапісу і нар. лубка. Як мяркуюць, аўтарам малюнкаў для гравюр мог быць Гурый Нікіцін. Біблія К. адметная шрагам арыгінальных трактовак, у прыватнасці, Творца ў цыкле Шастаднева намаляваны ў выглядзе анёла. Царква ўбачыла ў творы К. ератычныя матывы, і тыраж Бібліі быў канфіскаваны. Адзіны ацалелы экзэмпляр кнігі (36 лістоў) зберагаецца ў Дзярж. публічнай б-цы ў С.-Пецярбургу. На аўтарства К. паказваюць асабістыя подпісы разьбяра. Факсімільнае выданне Бібліі К. ажыццёўлена ў 1983.

*Літ.*: Сакович А.Г. Народная гравированная книга Василия Кореня, 1692—1696, М., 1983.

**Корб** (Korb) Іаган Георг (каля 1670,Ноймаркт, Баварыя—каля 1742), дыпламат, падарожнік. Сакратар пасольства аўстрыйскага імператара Леапольда I у Расію (1698—99). У 1700 у Вене на лацінскай мове выдаў «Дзённік падарожжа ў Масковію», у якім ёсць звесткі пра Вільню, Ашмяны, Баруны, Менск, Барысаў, Друцк, Шклоў і інш. бел. гарады і вёскі, побыт іх жыхароў, кляштары, шляхі зносін і інш.

*Тв.*: Рус. пер. — Дневник путешествия в Московию (1698 и 1699 гг.). 2 изд. СПб., 1906.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Валянцін Грыцкевіч.***

**«Корвін»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 80 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Бянкоўскія, Дмахоўскія, Каханоўскія, Крукоўскія, Урублеўскія. У чырвоным полі крумкач, які сядзіць на бервяне з адсечанымі 4 сукамі і трымае ў дзюбе пярсцёнак; клейнод — над прылбіцай з каронай 3 страусавыя пёры. Герб «К.» адгалінаваўся ў пач. 16 ст. ад герба *«Слепаўрон»*.



Герб **«Корвін»**.

**корд**, від клінковай зброі. Назва паходзіць, відаць, ад ням. «кордэляч», «кордалёч» (Kordelatsch, Kordalätsch) —



**Корд** з Ліды. 15 ст.

ад італьянскага «кортэлас» (cortelas вял. нож). Мелі просты ці злёгку выгнуты адналязовы клінок і асіметрычную рукаяць з накладнымі тронкамі. Тэхналогія вырабу К. была менш складаная, чым мячоў, таму яны былі больш дэмакратычным відам клінковай зброі. Па канструкцыйна-функцыянальных асаблівасцях К. з'яўляюцца пераходным варыянтам ад мяча да шаблі. Прамежкавае месца паміж мячамі і К. займалі цесакі. Яны былі даўжэйшыя за К., але карацейшыя за некаторыя віды мячоў. Пры блізкім да кордавага клінку, простым ці трохі выгнутым, часам пашыраным да вастрыя, цесакі першапачаткова характарызаваліся сіметрычнай рукаяццю, як у мячоў. Аднак з канца 15 ст. пачалі сустракацца цесакі з асіметрычнай рукаяццю з накладкамі, часам нахіленай у бок ляза, што яшчэ больш набліжала іх да К. У 16 ст. ў ВКЛ паняцці «цясак» і «К.» практычна не размяжоўваліся, прычым для абазначэння абодвух гэтых відаў зброі прыярытэтным стаў тэрмін «К.». У 16 ст. ў ВКЛ пад К. разумелася зброя найчасцей доўгая, відаць, даўжэйшая за шаблю, з простым ці адносна простым клінком, прыдатным для колючага ўдару. У 2-й пал. 16 ст. ўпамінаюцца і кароткія К. К. знойдзены ў Літве ў могільніках Дзіктарай Анікшчайскага р-на (не пазней за 15 ст.), Кармелава непадалёк ад Коўна (1-я пал. 15 ст.), Якштайчай каля Шаўляў (канец 14—1-я пал. 16 ст.). К. (цясак) з пашкоджаным вастрыём і канцом рукаяці знойдзены ў Мазыры. Яго агульная даўжыня 81,3 см, даўжыня простага, трохі адагнутага назад толькі каля вастрыя клінка 71,4 см. К. з абламаным лязом 16 ст. выяўлены ў Крычаве. Добра захаваны цясак агульнай даўжынёй 100 см знойдзены пад Лідай (датуецца, відаць, 2-й пал. 15 ст.). На мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу адлюстраваны К. 2 тыпаў: са скошаным ці нават выразаным канцом абушка і падобны, але з 2 выразамі. Ужо Статут ВКЛ 1529 называе К. у якасці нарматыўнага віду клінковай зброі паспалітага рушэння. Аб вял. папулярнасці К. ў 2-й пал. 16 ст. сведчыць попіс войска ВКЛ 1567, паводле якога ў Віленскай харугве К. складалі 65,7% ад усіх пералічаных адзінак клінковай зброі, у Браслаўскай — 64,7%, у Ковенскай — 43,7%, у Слонімскай — 45,9%. У большасці харугваў гэта быў або самы пашыраны від зброі, або займаў па папулярнасці 2-е месца, саступаючы толькі шаблям. У 17—18 ст. тэрмін «К.» выцясняецца найменнямі «цясак» і «кардэляс», якія ўжываліся ў дачыненні да баявой, паляўнічай і параднай зброі з шабельнай рукаяццю і кароткім 1- ці 2-лязовым клінком.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. 2 wyd. Warszawa,

1989; Gemberzewski B. Przyczynki do historii średniowiecznej broni siecznej polskiej lub z Polską związanej // Bron i barwa. 1936. R. 3, № 2; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 118—122.

*Юрась Бохан.*

**Корзан** (Korzon) Тадэвуш Сільвестр [28.10(9.11).1839, Мінск—8.3.1918], польскі гісторык. Правадзейны чл. Польскай АН у Кракаве (1902), ганаровы д-р Львоўскага ун-та (1912). Скончыў Мінскую гімназію (1855), Маскоўскі ун-т (1859). Выкладаў у гімназіі ў Коўне. За антыўрадавую дзейнасць у 1862 прыгавораны да пакарання смерцю, якое заменена высылкай ва Уфу і Арэнбург. Вярнуўся ў 1867, з 1869 працаваў і выкладаў у Варшаве, з 1897 дырэктар Б-кі ардынацыі Замойскіх, адначасова з 1906 выкладаў у Таварыстве навук. курсаў. Адзін з заснавальнікаў Таварыства аматараў гісторыі (1906). Працы па сац.-эканам. гісторыі Рэчы Паспалітай 17—18 ст., ваеннай гісторыі, тэорыі і методыцы гіст. даследаванняў, гістарыяграфіі. Прыхільнік пазітывізму. Як прадстаўнік Варшаўскай гіст. школы выступаў супраць канцэпцый Кракаўскай гіст. школы, крытыкаваў яе за клерыкалізм і палітычную тэндэнцыйнасць. Адзначаў тэндэнцыі адраджэння Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 18 ст., станоўча ацэньваючы саюз дробнай шляхты з мяшчанствам; віну за падзелы Рэчы Паспалітай ускладаў на суседнія дзяржавы. Аўтар падручнікаў па ўсеагульнай гісторыі, мемуараў.

*Тв.*: Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława Augusta (1764—1794): Badania historyczne ze stanowiska ekonomicznego i administracyjnego. T. 1—4. Kraków, 1882—86 (2 wyd. T. 1—6. 1897—98); Historya nowożytna. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1889—1903; Kościuszko: Biografia z dokumentów wysnuta. Kraków, 1894; Dola i niedola Jana Sobieskiego, 1629—1674. T. 1—3. Kraków, 1898 (2 wyd. 1912); Mińsk w połowie XIX wieku: ze wspomnień osobistych. Mińsk, 1908; Przed trzystu laty: (Wojna polsko-moskiewska 1609—1618). Warszawa, 1911; Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. T. 1—3. Kraków, 1912 (3 wyd. Poznań, 2003; т. 3 разам з Б.Гембажэўскім); Odrodzenie w upadku. Warszawa, 1975; Касьцюшка, сын Беларусі // Спадчына. 1994. № 1.

*Літ.*: Włodarczyk J. Tadeusz Korzon: Główne koncepcje historyczne i historiograficzne. Lódź, 1958 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**кормчыя кнігі**, зборнікі царкоўных і свецкіх законаў, якія выкарыстоўваліся пры кіраванні царквой і ў духоўных судах паўднёва- і ўсходнеславянскіх краін. Паходзяць ад аналагічных візантыйскіх зборнікаў — намаканонаў, якія аб'ядноўвалі царк. правілы, пастановы ўсяленскіх і памесных сабораў, імператарскія пастановы адносна царквы, вытрымкі з заканадаўчых зборнікаў.

Т.зв. Кормчая 14 тытулаў без тлумачэнняў (Старажытнаславянская кормчая) — пераклад з грэчаскай мовы, зроблены ў Балгарыі ў пач. 10 ст. На Русь трапіла ў 11 ст., магчыма, пры вял. кіеўскім князю Яраславе Мудрым [1019—54]. Некаторыя даследчыкі лічаць, што стараж.-слав. пераклад зроблены ў той час непасрэдна на Русі. Найб. ранні спіс помніка — наўгародская Яфрэмаўская кормчая пач. 12 ст., самая старажытная руская К.к. Напачатку свайго існавання на Русі К.к. не мелі пашырэння як кодэксы дзеючага права з-за неадпаведнасці сац.-эканам. развіцця Русі і Візантыйскай імперыі. Каб дапасаваць кодэкс права візантыйскай царквы да ўмоў Русі, у 12—13 ст. зроблены скарачэнні Стараж.-слав. К.к. за кошт другасных і лакальных прававых нормаў. Некаторыя палажэнні з К.к. ўключаны ў мясцовыя помнікі царк. права (апрацоўкі «Статута Уладзіміра»). Гістарыяграфічны матэрыял К.к. выкарыстоўваўся пры напісанні рус. летапісаў.

У канцы 12 ст. на Афоне (Грэцыя) складзена асобая рэдакцыя К.к., якая была перакладзена ў Сербіі ў 1-й пал. 13 ст. на стараж.-слав. мову і атрымала назву Сербскай рэдакцыі. У ёй вылучаюць 5 частак: пачатковыя артыкулы (пра ўсяленскія і памесныя саборы, тлумачэнні малітваў і сімвала веры); уводныя артыкулы, сістэматычны паказальнік і паказальнік зместу; кананічная частка (правілы апостальскія, усяленскіх і памесных сабораў 4—9 ст., правілы і пасланні айцоў царквы 3—11 ст.); грамадзянска-кананічная частка (візантыйскія імператарскія, патрыяршыя і сінадальныя пастановы, правілы і пасланні епіскапаў, творы пра іканаборцаў і інш. ерасі, палемічныя творы супраць лацінян і інш.); дадатковыя артыкулы (творы супраць нестарыянскай ерасі, творы Іаана Дамаскіна, табліца ступеней роднасці і інш.). Па просьбе рус. мітрапаліта Кірылы спіс К.к. Сербскай рэдакцыі без некат. артыкулаў у 1262 перапісаны ў Балгарыі і высланы ў Кіеў. Гэта К.к. змяшчала новыя заканадаўчыя палажэнні ў параўнанні са Старaж.-слав. кормчай і таму атрымала вял. пашырэнне. Вядома каля 30 яе спісаў 13—19 ст. рус., бел. і ўкр. паходжання. Найб. пашырэнне Сербская рэдакцыя К.к. мела ў 15—16 ст. на землях ВКЛ. Гэтаму садзейнічала паўд.-слав. паходжанне кіеўскіх мітрапалітаў Кіпрыяна, Грыгорыя Цамблака, Грыгорыя Балгарына. Т.зв. Румянцаўскі спіс апошняй трэці 15 ст. створаны на тэр. Турава-Пінскай епархіі і перапісаны ў адным зборніку са статутамі князя Уладзіміра і Яраслава і Судзебнікам 1468. Гэта сведчыць, што Сербская К.к. разглядалася ў той час як дзеючы кодэкс права. Бел. спіс кормчай 2-й пал. 16 ст. (т.зв. Барсаўскі 3-і) знаходзіўся ў 17 ст. ў Турыйску. У спісе Таварыства аматараў стараж. пісьменства 1-й чвэрці 17 ст., які бытаваў у ВКЛ, знаходзіцца выпіска з жыція 3 літоўскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія. Пінскі спіс 1634, зроблены ва уніяцкім Пінскім Лешчанскім манастыры для Жыровіцкага манастыра, мае ўстаўкі на бел. мове пра саборы. Жыровіцкаму манастыру належаў таксама спіс пач. 17 ст. З ВКЛ Сербская рэдакцыя трапіла ў Маскоўскую Русь. Магчыма, адзін са спісаў даставіў каля 1460 епіскап Яўфімій, які ўцёк у Суздаль. Спіс Сербскай рэдакцыі патрыярх Іосіф паклаў у аснову надрукаванай у Маскве ў 1649—53 К.к. (т.зв. Іосіфаўская і Ніканаўская К.к., названыя па імёнах патрыярхаў). У 1787 выйшла т.зв. Кацярынаўская кормчая (ад імя імператрыцы), апошняе выданне К.к. датавана 1816.

У 1260—70-я г. на Русі ўзнікла Руская рэдакцыя К.к. на аснове больш ранніх рэдакцый з дапаўненнем тэкстаў мясц. паходжання: правіл кіеўскага мітрапаліта Іаана, наўгародскага епіскапа Ніфанта, царк. сабора, скліканага мітрапалітам Кірылам у 1273. Асн. тэкст Рускай К.к. складаўся з 70 раздзелаў. Відаць, гэта рэдакцыя ўзнікла ў Кіеве пры мітрапаліце Кірыле. У канцы 1270—пач. 1280-х г. Рус. кормчая дапоўнена (магчыма, у Растове або Уладзіміры) амаль 40 новымі артыкуламі: «Законам судным людзям», інш. юрыд.



помнікамі, правіламі царк. службы, манаскімі статутамі і правіламі (у т.л. «Сказаннем аб чарнарызскім чыне» Кірылы Тураўскага), аскетычна-містычнымі творамі, тлумачэннямі біблейскіх рэалій і сімволікі, гіст. і біяграфічнымі творамі. К.к. Рус. рэдакцыі былі пашыраны па ўсёй Русі. У канцы 13—14 ст. узнік яе Валынскі звод, які распаўсюдзіўся на ўкр. і бел. землях. На землях Маскоўскай і Наўгародскай Русі ў 14—15 ст. ствараліся мясц. зводы Рус. К.к. Так званы Харкаўскі спіс у 15—16 ст. знаходзіўся ў Полацкім Іаана-Багаслоўскім манастыры, а ў 18 ст. — у Жыровіцкім. Румянцаўскі 3-і спіс у 18—19 ст. захоўваўся ў веткаўскіх стараверaў. Спісы Сербскай рэдакцыі К.к. на землях Украіны і Беларусі (захавалася больш за 10) колькасна пераважалі над спісамі Рус. рэдакцыі (3 экз.), што тлумачыцца яе больш раннім распаўсюджаннем.

*Літ.*: Срезневский И.И. Обозрение древних русских списков кормчей книги. СПб., 1897; Бенешевич В.Н. Древнеславянская кормчая XIV титулов без толкований. Т. 1—2. СПб.; София, 1906—87; Щапов Я.Н. Византийское и южнославянское правовое наследие на Руси в XI—XIII вв. М., 1978; Милов Л.В. О древнейшей истории кормчих книг на Руси // История СССР. 1980. № 5; Мазуринская Кормчая: Памятник межславянских культурных связей XIV—XVI вв. Исследование. Тексты. М., 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Корсак** Рафаіл (свецкае імя Мікалай; каля 1595—28.8.1640), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. З бел. кальвіністкай шляхецкай сям'і. Выхоўваўся ў Нясвіжскім езуіцкім калегіуме, дзе прыняў каталіцтва лацінскага абраду. Пад уплывам мітрапаліта Іосіфа Руцкага перайшоў ва уніяцтва і ў 1620 уступіў у ордэн базыльян пад манаскім імем Рафаіл. Вывучаў філасофію ў папскіх калегіумах Брунсберга (цяпер Бранева, Польшча) і Прагі (1618—20), тэалогію ў калегіуме св. Афанасія ў Рыме (1621—24). Архімандрыт манастыроў Віленскага Троіцкага (1625—37), Ануфрыеўскага (Мсціслаўскае ваяв., 1631), Кобрынскага Спаскага (1632—33), Жыдзічынскага (1637—40); протаархімандрыт (галава) базыльянскага ордэна (1626—40); епіскап Галіцкай (1626—32) і Турава-Пінскай (1632—37) епархій. У 1626 кароль Жыгімонт



Рафаіл **Корсак**.

III прызначыў яго каад'ютарам (памочнікам-намеснікам) мітрапаліта Іосіфа Руцкага. Пасля зацвярджэння каралём Уладзіславам IV «Пунктаў заспакаення Русі» (1633), якія легалізавалі правасл. царкву, К. пасланы Іосіфам Руцкім у Рым, дзе дамогся адмовы папы Урбана VIII прызнаць гэтыя «Пункты...». Як мітрапаліт грэка-каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай (1637—40) К. падтрымаў курс Уладзіслава IV на прымірэнне уніятаў і праваслаўных. У 1639 ён прасіў у папы Урбана VIII дазволу склікаць сумесны сабор абедзвюх цэркваў і стварыць адзіны «рускі» патрыярхат у Рэчы Паспалітай. Клапаціўся аб беатыфікацыі Іасафата Кунцэвіча. Памёр у Рыме, пахаваны ў царкве св. Сергія і Вакха.

***Сяргей Казуля.***

**Корсак** Самуэль (каля 1745—пасля снеж. 1795), грамадска-палітычны і вайсковы дзеяч ВКЛ. З роду *Корсакаў*. Быў паслом ад Навагародскага ваяв. на *сойме 1773—75*, які зацвердзіў 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. Спачатку ўваходзіў у апазіцыю на чале з Т.*Рэйтанам* і С.*Багушэвічам*, якая імкнулася не дапусціць падзелу Рэчы Паспалітай. Разам з Рэйтанам падаў 21.4.1773 у Варшаўскі гродскі суд маніфест супраць рас. стаўленіка маршалка сойма А.Панінскага, а пасля яго непрыняцця адмовіўся ўдзельнічаць у сойме. Пазней належаў да пракаралеўскай партыі на чале з падскарбіем надворным ВКЛ А.*Тызенгаўзам*. Палкоўнік кавалерыі войска ВКЛ, чл. Скарбовай камісіі ВКЛ (1784—88). Адзін з удзельнікаў падрыхтоўкі *паўстання 1794*, падпісаў Віленскі акт паўстання 24.4.1794. Уваходзіў у *Найвышэйшую літоўскую раду*. Пасля падаўлення паўстання К. шукалі паводле загаду Кацярыны II як аднаго з адказных за смяротны прысуд гетману Ш.Касакоўскаму. У пач. снеж. 1795, магчыма, ужо рэабілітаваны, К. удзельнічаў пры разглядзе судовай справы ў Навагародскім земскім судзе.

*Літ.*: Konczyńska W. Rejtan, Korsak i Bohuszewicz na sejmie 1773 roku: Materjały do monografji posła nowogródzkiego. Wilno, 1935

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Корсак** Тадэвуш (1741?, в. Заскаркі або Данева Полацкага ваяв.—4.11. 1794), дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ. З роду *Корсакаў*. Па пратэкцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1787 стаў віленскім земскім суддзёй. Быў адным з самых актыўных паслоў ад ВКЛ на *Чатырохгадовым сойме 1788—92*, дамагаўся стварэння асобнай для ВКЛ скарбовай і паліцэйскай адміністрацыі. У пачатку *паўстання 1794* у ВКЛ прыбыў у Вільню на чале некалькіх дзесяткаў узброеных навакольных і ўласных сялян. У маі 1794 увайшоў у склад паўстанцкай парадкавай камісіі Віленскага ваяводства. 19—20 ліп. ўдзельнічаў у абароне Вільні разам з атрадам ген. Меена. 31.8.1794 атрымаў ад Т.Касцюшкі званне ген.-маёра. Загінуў пры абароне Прагі — прадмесця Варшавы. Пахаваны разам з Я.Ясінскім пры варшаўскім касцёле «На Камёнку».

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Корсакі**, шляхецкі род уласнага герба (зменeная «Катвіца»). Паходзяць з полацкага баярства. Родапачынальнік Фёдар упамінаецца ў 1385, калі ён атрымаў ад князя Андрэя Альгердавіча землі каля воз. Беразвеч у Полацкай зямлі. Яго сын Дзмітрый К. меў сыноў Саву, Якава (Яшку) і Васіля, якія ўзвысіліся пры вял. князю Свідрыгайлу. Ад Савы пайшла галіна, якая карысталася прозвішчам Савічы-Корсакі і гербам «Ліс», дапоўненым выявай герба «Катвіца» ў клейнодзе. Прадстаўнікі гэтай галіны ў 15 ст. валодалі маёнткам Узда ў Менскім пав., мелі землі ў Навагародскім і Менскім ваяв. Найб. вядомыя:

Васіль Дзмітрыевіч (каля 1380—1452), намеснік полацкі пры вял. князю Свідрыгайлу, потым служыў у яго радзе, калі апошні быў валынскім князем. Меў сыноў Астафія і Зяновія,



полацкіх баяр 2-й пал. 15 ст., у якіх было шмат нашчадкаў.

Глеб Астаф'евіч (каля 1450—каля 1511) валодаў маёнткамі Забор'е, Залессе (Залессе-Астроўна), Азерцы, Перадол, Псуя, Удзел і інш. ў Полацкім ваяв., якія пазней падзялілі яго сыны Васіль (?—да 1528), пачынальнік удзельскай галіны К.; Іван (каля 1480—1552), гараднічы полацкі; Ян (каля 1485—1555), падваявода полацкі; Андрэй (каля 1490—да 1533), заснавальнік залеска-астровенскай галіны; Сямён (?—?) і Астафій (каля 1500—пасля 1563), род якога згас у 1-й чвэрці 17 ст. Паводле попісу войска ВКЛ 1528 з іх маёнткаў належала ставіць 86 коннікаў, яшчэ 23 ставіла ўдава Глеба Настасся, што паходзіла з Савічаў-Корсакаў.

Іосіф (каля 1540—1618), сын Яна. Уладальнік Залесся і Лятоўшчыны, полацкі войскі з 1570, суддзя земскі з 1586, кашталян менскі ў 1597 і полацкі з 1597. Памёр бяздзетным, завяшчаў маёнткі сынам свайго брата Гаўрылы.

Баркулаб (каля 1520—20.8. 1576), сын Івана. Пасол у Маскву ў 1562, стараста свіслацкі, дзісенскі з 1566. Апрача бацькоўскіх Арэхаўны, Залесся, Псуі праз шлюб з князёўнай Палоніяй Крошынскай набыў Шупені і Буйнічы ў Аршанскім пав., дзе заснаваў мяст. Баркулабава, якое пазней праз шлюб яго дачкі Евы адышло да князёў Саламярэцкіх.

Багдан Астаф'евіч, уладальнік Беразвечча, Перадолу, Плісы, Язна і інш. у Полацкім ваяв., з якіх яго адзіны сын Дзмітрый (каля 1490—пасля 1552), мастаўнічы полацкі, у 1528 ставіў у войска 33 коннікаў. Сын апошняга Пётр (?—пасля 1563) у 1559 быў намеснікам аршанскім і быхаўскім, у 1560 трапіў у маскоўскі палон.

Іосіф Львовіч (каля 1570—1643), заснавальнік базыльянскага манастыра ў Беразвеччы і кармеліцкага ў Глыбокім, мсціслаўскі стараста з 1629 і ваявода з 1639.

Міхаіл Зяноўевіч (каля 1460—да 1509), уладальнік Бабынічаў, Дзярновічаў, Селішча, Туросы, Усомна і інш. у Полацкім ваяв. Яго сыны Яцка (каля 1490—пасля 1535), Васіль (каля 1495—1561), гараднічы полацкі з 1552, і Іван (каля 1500—да 1563), харужы полацкі, у 1528 ставілі ў войска 70 коннікаў, яшчэ 19 ставіла іх маці. Ад Васіля і Івана пайшлі 2 галіны роду.

Ян Раманавіч (каля 1620—79), уладальнік Псуі, полацкі падчашы з 1658, падкаморы з 1659, кашталян з 1660

Іван Зяноўевіч (каля 1470—1513), намеснік краснасельскі з 1502, уладальнік Бабынічаў, Галубічаў, Туросы і інш. у Полацкім ваяв. Меў сыноў Багдана (каля 1500—пасля 1564), Глеба (каля 1500—58), мечніка полацкага, і Фёдара (каля 1510—да 1559), якія ў 1528 ставілі ў войска 34 коннікаў, а іх маці — 16. Род Глеба згас на яго сынах у 1563, род Фёдара існаваў да 18 ст. Нашчадкі Багдана ўтварылі галубіцкую галіну К.

Ян Грыгор'евіч (каля 1560—1625), унук Багдана. Полацкі харужы ў 1598—1620, гараднічы да 1611, кашталян дорпацкі ў 1620—21 і полацкі ў 1621—25, ваявода смаленскі ў 1625. Род яго нашчадкаў згас у 1727.

Гл. таксама *Корсак* Р., *Корсак* С., *Корсак* Т.

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz polski. Warszawa, 1907. T. 11. S. 116—192.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Корсуньскі дагавор 1657**, дагавор паміж гетманскай Украінай і Швецыяй, падпісаны 6 кастр. ў г. Корсунь у час *Паўночнай вайны 1655—60*. Палітычны курс Швецыі на саюз з Украінай быў абраны на пасяджэнні дзярж. рады Швецыі 13—14.9.1656 у прускім г. Фраўэнберг. Ва ўмовах вайны на 2 фронты (супраць Расіі і Рэчы Паспалітай) шведскі кароль Карл X і члены рады вырашылі, што «прывабіць магутных казакоў лепш, чым шукаць таварыства палякаў». Гал. умовай гетмана Украіны Б.Хмяльніцкага адносна саюза з Швецыяй было прызнанне Стакгольмам казацкай дзяржавы і яе будучых межаў, якія мусілі ахапіць бел. землі ВКЛ. Бакі дамовіліся падтрымліваць адзін аднаго ў вайне супраць агульных ворагаў, за выключэннем вял. князя маскоўскага; абвяшчаўся мір паміж Запарожскім Войскам і Швецыяй. Было адзначана, што ўсе асобныя пытанні будуць вырашаны шляхам наступных перагавораў. Шведскім пасольствам кіраваў Густаў Ліліекрона. З трох укр. камісараў, што падпісалі дагавор, два, лідэр укр. пратэстантаў генерал Юрый Нямірыч і палкоўнік Іван Фёдаравіч Багун, узначальвалі прашведскую партыю казацкай старшыны і мелі вопыт службы на баку Карла X, які набылі ў час паходу на Берасце ў 1657. 3-і камісар, Іван Кавалеўскі, адказваў за зах. напрамак укр. дыпламатыі і неаднаразова сустракаўся са шведскімі дыпламатамі. 8.10. 1657 гэтыя 3 камісары падпісалі зварот да пасла і ўрада Швецыі з 8 артыкулаў, якія дапаўнялі К.д. У арт. 1 пацвярджалася адмова Украіны ваяваць супраць Расіі. Арт. 2 вызначаў запарожскае казацтва як «свабодную палітычную нацыю, нікому не падлеглую». У арт. 3 Украіна прасіла ў якасці кампенсацыі за саюз са Швецыяй частку ВКЛ, перш за ўсё «Берасцейскае і Навагародскае ваяводствы, да самай ракі Бярэзіны».

У гэты час укр. войска на чале з палкоўнікам І.Нячаем ужо кантралявала значныя тэрыторыі на У ВКЛ. У выніку ажыццяўлення К.д. пад кантролем Украіны мусілі апынуцца значныя абшары ВКЛ. Патрабаванне гэтых этнічна бел. земляў было загадзя абмеркавана з пасламі Швецыі. Частку Берасцейскага ваяв. (Пінскі пав.) займалі ўкр. войскі палкоўніка Канстанціна Выгоўскага (на аснове Чыгірынскага дагавора пінскай шляхты і Хмяльніцкага ад 1.7.1657). Астатнюю частку Берасцейскага ваяв. кантралявала варожая Швецыі дывізія гетмана П.Я.Сапегі. Большая частка Навагародскага ваяв. (Слуцкае княства) належала Б.Радзівілу, які ў вер. 1657 перайшоў на бок ворага Швецыі Прусіі.

Умовы К.д. былі нерэальнымі. Гал. мэтай Швецыі была згода Украіны на ўдзел ў вайне супраць Расіі. Гэта не атрымалася з-за супраціўлення большай часткі казацкай старшыны і палітыкі Масквы. Таму шведскія паслы прапанавалі выкарыстаць казацкія войскі ў вайне Швецыі супраць Рэчы Паспалітай. Менавіта Рэч Паспалітая мелася на ўвазе, калі ў К.д. ішла гаворка пра агульных ворагаў Украіны і Швецыі. Але адначасова пад націскам Расіі казацкая рада абяцала трымацца *Віленскага перамір'я 1656* і не ваяваць супраць Рэчы Паспалітай. Незадаволеная К.д. частка ўкр. старшыны на чале з палкоўнікамі Марцінам Пушкаром і Якавам Барабашам выступіла супраць саюза са Швецыяй і пачала грамадзянскую вайну. Такім чынам, К.д. не набыў

практычнай сілы. Зыход шведскага войска з Рэчы Паспалітай прывёў да таго, што гетман Іван Выгоўскі перастаў цікавіцца ідэяй саюза са Швецыяй і пачаў рух у бок укр.-польскага саюза, вынікам чаго стала заключэнне *Гадзяцкага дагавора 1658*.

*Літ*: Wittrock G. Karl X Gustaf i Polen: Krigsmålet och allianserna // Karolinska förbundets årsböcker. Stockholm, 1920; Чухліб Т. Гетьмани і монархі: Українська держава в міжнародних відносинах, 1648—1714. Київ, 2003; Котлярчук А. Дипломатические отношения Швеции и Украины в 1654—1660 годах: шведская историография и источники // Украина и соседние государства в 17 веке. СПб., 2004.

***Андрэй Катлярчук.***

**Корт** (Кордт) Веніямін Аляксандравіч (19.2.1860, г. Дэрпт—24.12.1934), расійскі і ўкраінскі гісторык, археограф і картограф. Скончыў прыродазнаўчы факультэт Дэрпцкага ун-та (1888). Даследаваў архівы Швецыі, Галандыі і Расіі. З 1894 дырэктар бібліятэкі Кіеўскага ун-та і кіраўнік Кіеўскай археаграфічнай камісіі. Вядомы як гісторык картаграфіі (публікаваўся з 1871), факсімільна выдаў шмат стараж. карт, у т.л. ВКЛ і Беларусі.

*Тв.*: Материалы для историко-географического атласа России. СПб., 1871; Материалы по истории русской картографии. Вып. 1—3. Киев, 1899—1910; Матеріали до історії картографії України. Київ, 1931.

***Леў Казлоў.***

**«Корчак»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася каля 270 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Баратынскія, Браніцкія, Есьманты, Заранкі, Ілліничы, Катовічы, Мялешкі, Млечкі. У чырвоным полі 3 папярочныя сярэбраныя бэлькі, якія звужаюцца да нізу; клейнод — над прылбіцай з каронай у залатой чары палова сярэбранага сабакі. Існуюць варыянты герба з 2 перакрыжаванымі гардамі над бэлькамі і 3 страусавымі пёрамі ў клейнодзе (герб «Лопат»), з сярэбраным месяцам пад бэлькамі рагамі ўгору, і інш. У Польшчы вядомы з канца 14 ст. Паводле Я.Длугаша, герб утвораны каралём Людвікам I; ён дадаў 3 бэлькі, якія высеснілі сабаку з тарчы ў клейнод. У ВКЛ пашырыўся пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.



Герб **«Корчак»**.

**Косман** (Kosman) Марцэлі (н. 8.5.1940, г. Ізбіца-Куяўска, Куяўска-Паморскае ваяв., Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1971), праф. звычайны (1988). Засл. дзеяч культуры. Скончыў Пазнанскі ун-т па спецыяльнасцях гісторыя (1961) і педагогіка (1964). Выкладчык, дырэктар ліцэя ў Ізбіцы Куяўскай (1961—67), ад'юнкт (з 1967) і дацэнт (з 1971) у Ін-це гісторыі Польск. АН, дырэктар Курніцкай б-кі Польскай АН (1976—83), праф. Вышэйшай педагагічнай школы ў Аполе (1983—93), дзе быў заг. кафедры гісторыі Усх. Еўропы, праф. Пазнанскага ун-та (з 1987), дзе ўзначальвае аддзел палітычнай культуры. З 1989 нам. старшыні Таварыства імя Г.Сянкевіча, у 1993—98 старшыня Пазнанскага аддзела Саюза польскіх літаратараў. Даследуе гісторыю палітычнай культуры новага часу, гісторыю Усх. Еўропы, ВКЛ, гісторыю пратэстантызму, гісторыю ў творчасці Сянкевіча. Узнагароджаны медалём за заслугі перад Апольскім ун-там, залатым медалём імя Ф.Палацкага Чэшскай АН (2003).

*Тв.*: Na tropach bohaterów Trylogii. Warszawa, 1966 (5 wyd. 1995); Wielki książe Witold. Warszawa, 1967; Władysław Jagiełło. Warszawa, 1968; Kancelaria wielkiego księcia Witolda // Studia źródłoznawcze. 1969. T. 14; Dokumenty wielkiego księcia Witolda // Там жа. 1971. T. 16; Pomiara włóczna na Polesiu Pińskim // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. 1970. T. 31; Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Drogi zaniku pogaństwa u Bałtów. Wrocław, 1976; Protestanci i kontrreformacja: Z dziejów tolerancji w Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Wrocław, 1978; Historia Białorusi. Wrocław etc., 1979; Эволюция язычества в Прибалтике // Вопросы истории. 1979. № 5; Zmierzch Perkuna czyli ostatni poganie nad Bałtykiem. Warszawa, 1981; Z dziejów Biblioteki Kórnickiej. Wrocław, 1984; Litewska jednota ewangelicko-reformowana od połowy XVII w. do 1939 r. Opole, 1986; Litwa pierwotna — mity, legendy, fakty. Warszawa, 1989; Orzeł i Pogoń: Z dziejów polsko-litewskich XIV—XX w. Warszawa, 1992; Cmentarze dawnego Wilna. Toruń, 1994; Poczet prymasów Polski. Warszawa, 1997; Z rozważań nad kulturą polityczną. Cz. 1—2. Poznań, 1998—2001; Henryka Sienkiewicza wizja Polski wspaniałej. Poznań, 1999; Litauen zwischenunter Vergangenheit und Gegenwart. Bd. 1. Poznań, 2003; Polska—Litwa: Z odległej i bliższej przeszłości. T. 1—2. Poznań, 2003—04.

*Літ.*: Przeszłość odległa i bliska. Poznań, 2000; U schyłku tysiąclecia. Poznań, 2001 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**Косцевічы**, Касцевічы, шляхецкі род. Родапачынальнік Станіслаў у канцы 15 ст. быў намеснікам ковенскім. Значнымі асобамі былі яго сыны: Януш (каля 1460—1527), маршалак дворны з 1510, ваявода віцебскі з 1514 і падляшскі з 1520, адначасова стараста дарагічынскі з 1522 і ковенскі з 1523, дзяржаўца радунскі, ожскі і пераломскі. Венцлаў (каля 1470—1532), намеснік дарсунішскі, маршалак дворны з 1511. Быў жанаты з князёўнай Ганнай Сямёнаўнай Кобрынскай. У 1519 атрымаў прывілей на пажыццёвае валоданне *Кобрынскім княствам*. У 1528 ставіў у войска 41 конніка. Яго адзіны сын Пётр памёр маладым, на ім род К. скончыўся.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кот** (Kot) Станіслаў (22.10.1885, Руда Жэшаўскага ваяв., Польшча—26.12.1975), польскі гісторык культуры, палітычны дзеяч. Праўдзейны чл. Польскай АН (1928). Вучыўся ў Львоўскім ун-це. У 1912—14 даследаваў архівы і б-кі ў Зах. Еўропе. У 1920—23 праф. Кракаўскага ун-та, пазбаўлены кафедры з-за пратэсту супраць арышту кіраўнікоў «Цэнтралева». Чл. партыі «Стронніцтва людовэ», з 1933 уваходзіў у склад яе кіраўніцтва. У 1939 выехаў у Францыю, адзін з блізкіх супрацоўнікаў ген. У.Сікорскага. У вер. 1941—ліп. 1942 пасол Польшчы ў СССР (удзельнічаў у перагаворах Сікорскага са Сталіным), у 1942—43 дзярж. міністр урада Польшчы на Блізкім Усходзе, у 1943 міністр інфармацыі, у 1945—49 пасол у Італіі. Застаўся ў эміграцыі, жыў пераважна ў Парыжы.

З 1955 старшыня партыі «Польске стронніцтво людовэ» (Польская народная партыя) у замежжы. Працы па гісторыі палітычнай і грамадскай думкі Рэчы Паспалітай, яе культ. сувязяў з краінамі Еўропы. Заснавальнік выдання «Рэфармацыя ў Польшчы» (т. 1—8, 1921—39). Аўтар мемуараў.

*Тв.*: Andrzej Frycz Modrzewski: Studjum z dziejów kultury polskiej wieku XVI. Kraków, 1919 (2 wyd. 1923); Historja wychowania. Warszawa etc., 1924 (2 wyd. T. 1—2. Lwów, 1934); Ideologia polityczna i społeczna Braci Polskich zwanych arianami. Warszawa, 1932; La réforme dans la Grand-Duché de Lithuanie: Facteur d'occidentalisation culturelle. Bruxelles, 1953; Geneza i tło historyczne Biblii Litewskiej Chylińskiego. Poznań, 1958; Jerzy Niemirycz: W 30-lecie Ugody Hadziackiej. Paryż, 1960; Polska Złotego Wieku a Europa: Studia i szkice. Warszawa, 1987.

*Літ.*: Barycz H. Stanisław Kot: historyk polskiego odrodzenia i reformacji. Warszawa; Kraków, 1978; Rutkowski T.P. Stanisław Kot, 1885—1975: biografia polityczna. Warszawa, 2000; Stanisław Kot — uczony i polityk: Pokłosie sesji naukowej. Kraków, 2001 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**«Котвіч»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 70 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Калячыцкія, Крыцкія, Лянкевічы, Радаміцкія, Смолікі, Струпінскія, Талкачы. У сярэбраным полі чырвоны пояс; клейнод — над прылбіцай з каронай рука ў даспехах з мячом. Існуюць варыянты герба: сярэбраны пояс у чырвоным полі, чорны пояс у сярэбраным полі, у клейнодзе — 3 страусавыя пёры і інш. У Польшчы вядомы з сярэдзіны 14 ст., пазней вельмі пашыраны ў ВКЛ.



Герб **«Котвіч»**.

**Коўна** (літ. Каўнас, Kaunas, цяпер горад, цэнтр Каўнаскага р-на і павета, Літоўская Рэспубліка), горад, цэнтр *Ковенскага павета* Троцкага ваяв., на р. Нёман пры ўпадзенні Віліі. У 10—12 ст. тут існавала неўмацаванае паселішча, у сярэдзіне 14 ст. пабудаваны мураваны *Ковенскі замак*. К. ўпершыню згадваецца ў 1361. Неаднаразова падвяргалася нападам крыжакоў (1362, 1385, 1391, 1400 і інш.). У 1384 упершыню названа горадам. У 1404 тут адбылася сустрэча вял. князя Вітаўта з вял. магістрам Тэўтонскага ордэна, а ў 1408 — сустрэча з вял. магістрам Вітаўта і Ягайлы. У 1408 ад Вітаўта К. атрымала магдэбургскае права. Гар. правы пацвярджаліся і пашыраліся ў 1444, 1463, 1492, 1508, 1540, 1541, 1547, 1574, 1665, 1676 і інш. Карысталася гербам з выявай быка з крыжам над ім (пазней крыж паміж рагамі быка). З 1413 К. — цэнтр павета ў складзе Троцкага ваяв. З 15 ст. забудоўвалася мураванымі прыватнымі, грамадскімі і царк. пабудовамі. У 1400 заснаваны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (пасля францысканскі), у 1413 — касцёл св. Пятра і Паўла, у 1468 —бернардзінскі кляштар. З канца 15 ст. вядомы касцёл св. Мікалая (пасля бенедыкцінскі), касцёл св. Гертруды і т.зв. «Дом Пяркунаса». У 1542 збудавана мураваная ратуша. У пач. 16 ст. ў К. паселены і памёр былы хан Вял. Арды Шых-Ахмед. З 16 ст. К. — значны рамесны і гандлёвы цэнтр ВКЛ. У горадзе дзейнічалі мытня і порт, праз які па Нёмане сплаўляліся тавары ў Прусію. У 1441—1532 у К. існавала кантора ганзейскіх купцоў, было значнае нямецкае насельніцтва, якое прымала гар. юрысдыкцыю і мела прадстаўніцтва ў магістраце. Двойчы ў год у К. праводзіліся кірмашы. З 16 ст. тут будавалі караблі,



Пячатка **Коўна**.

выраблялі паперу, адлівалі званы і гарматы, працавалі рамеснікі больш як 40 спецыяльнасцей, у сярэдзіне 17 ст. дзейнічаў *Ковенскі манетны двор*. У канцы 16 ст. пабудаваны лютэранскі збор, дзе служыў П.*Одэрборн*, заснаваны кляштар бернардзінак. У 1473 упершыню згадваецца прыходская школа, у 1653 адчынены *Ковенскі езуіцкі калегіум*, які у 1782 Адукацыйная камісіяператварыла ў пачатковую 3-класную школу. К. значна пацярпела ад эпідэмій 1657 і 1709, пажараў 1670 і 1732, паводак 1625 і 1715. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* рас. войскі 18.8.1655 узялі К., у верасні 1655 горад на некалькі дзён захоплены шведскімі войскамі, пасля зноў расійскімі, 26.12.1661 вызвалены. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1702 праз горад прайшлі шведскія войскі. У 1708



**Коўна**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

заснаваны кляштар кармелітаў босых, якім у 1772 перададзены касцёл Св. Крыжа. У канцы 17 ст. ў К. пачалі сяліцца яўрэі. З-за супярэчнасцей у галіне гандлю ў 1753 задворны асэсарскі загадаў яўрэям пакінуць горад, што адменена ў 1782. У час вайны з Расіяй 20.6.1792 у К. ўвайшлі рас. войскі, тут створана мясц. канфедэрацыя ў падтрымку Таргавіцкай канфедэрацыі. У 1794 праз К. праходзілі паўстанцкія войскі, быў абвешчаны акт паўстання. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковны, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Ч. 2. Вильна, 1843; Гуковский К.П. Город Ковна: Краткий ист.-статистический очерк. Ковна, 1904; Балтушникас З. Каунас. Вильнюс, 1974; Каунас: Пер. с лит. Вильнюс, 1977; Oksas J. Kaunas karo su kryžiuočiais epochoje. Kaunas, 1995; Kauno istorijos metraštis T. 1—6. Kaunas, 1998—2005; Bičiūnas V. Kaunas 1030—1930. 2 leid. Kaunas, 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Коцелы**, шляхецкі род, гл. *Катлы*.







**Коўна**. Камяніцы 16 ст.

**крайчы**, урад (пасада) у ВКЛ і Польшчы. Да 13 ст. прыдворны, які павінен быў пасля падрыхтоўкі стала *стольнікам* наразаць пададзеныя стравы для свайго пана. У ВКЛ вядомы з 15 ст., у іерархіі ўрадаў займаў высокае месца (звычайна К. прызначаліся маладыя прадстаўнікі магнацкіх родаў). З 17 ст. ўрад К. ВКЛ — дыгнітарскі. У паветах былі пасады К. земскіх, таксама дыгнітарскія.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***




**Коўна**. Гравюра Т.Макоўскага. Канец 16 — пач. 17 ст.



**Рыначная плошча Коўна**. Малюнак Н.Орды.

**Кракаўскі універсітэт**, Ягелонскі універсітэт, вышэйшая навучальная ўстанова ў Польшчы. Заснаваны 12.5.1364 у Кракаве каралём *Казімірам III* Вялікім. Пасля прыйшоў у занапад, 26.7.1400 адроджаны і рэарганізаваны на ўзор Пражскага ун-та



Уладзіславам II (Ягайлам). Меў ф-ты: тэалагічны, юрыд., медыцынскі і вольных мастацтваў (рыхтаваў студэнтаў для паступлення на інш., вышэйшыя, факультэты), 11 кафедраў. У 15—1-й пал. 16 ст. ун-т перажываў уздым, знаходзіўся пад моцным уплывам гуманізму, набыў агульнаеўрап. вядомасць як цэнтр вывучэння матэматыкі і астраноміі. У сярэдзіне 16 ст. ўзмацніўся ўплыў на ун-т каталіцкага духавенства, адукацыя набыла тэалагічна-схаластычны характар. К.у. стаў першай вышэйшай навучальнай установай, дзе атрымлівалі адукацыю выхадцы з ВКЛ. Паводле іматрыкуляцыйных запісаў, у 1400-х г. ва ун-т паступіў 1 студэнт з ВКЛ, у 1410-х г. — 13, у 1420-х — 15, у 1430-х — 3, у 1440-х — 21, у 1450-х — 15, у 1460-х — 20, у 1470-х — 38, у 1480-х — 36, у 1490-х — 39, усяго у 15 ст. — 201 чал. У 1-ю пал. 16 ст. колькасць студэнтаў з ВКЛ заставалася прыкладна на адным узроўні: у 1500-х г. — 31, у 1510-х — 32, у 1520-х — 25, у 1530-х — 52, у 1540-х — 33. З пашырэннем Рэфармацыі частка моладзі ВКЛ накіравалася ў *Каралявецкі універсітэт* і інш. пратэстанцкія ун-ты. У К.у. у 1550-х і 1560-х г. паступіла па 13 чал. з ВКЛ, у 1570-х — 11, у 1580-х — 5, у 1590-х — 14. Усяго ў 16 ст. з ВКЛ у К.у. паступіла 229 студэнтаў. Ад агульнай колькасці ліцвінаў, што запісаліся ў К.у. у 15 ст., 130 чал. (64,6%) прыбылі з гарадоў, у асн. з Вільні (74 чал.), Коўна (14 чал.), Гародні (7 чал.), астатнія — з сёл і мястэчак; у 16 ст. з гарадоў было 118 студэнтаў-ліцвінаў (51%). Можна меркаваць, што пераважная большасць студэнтаў — выхадцаў з ВКЛ была з мяшчанства (у т.л. Ф.Скарына), аднак праслойка шляхты пастаянна расла. Сярод студэнтаў у 15—16 ст. было некалькі Гедройцаў, Сапегаў, Радзівілаў, князёў Свірскіх і Гальшанскіх (у т.л. будучы біскуп луцкі і віленскі П.А.Гальшанскі). Магнаты ВКЛ аказвалі падтрымку К.у., сярод іх былі стараста жамойцкі М.Кезгайла, ваявода віленскі Я.Гаштольд; 2-м рэктарам ун-та ў 1401 быў выбраны князь Войдат (Ян), унук Кейстута. Упершыню навук. ступень бакалаўра выхадзец з ВКЛ атрымаў у К.у. ў 1418; за 15 ст. мелі яе 67 літвінаў. Некаторыя дасягалі ступеняў магістра і доктара. Выпускнікі К.у. адыгралі значную ролю ў культ. развіцці ВКЛ, сярод іх былі Войцех з Брудзева, П.Раізій, М.Стрыйкоўскі, Вітэлій. Пасля адкрыцця ў канцы 16 ст. *Віленскай акадэміі* колькасць студэнтаў з ВКЛ у К.у. значна скарацілася. У 17—18 ст. там панавала схаластыка і тэалогія. Значны ўклад у рэфармаванне К.у. на аснове ідэй Асветніцтва ў канцы 18 ст. зрабіў Г.*Калантай*.

*Літ.*: Dzieje Uniwersytetu Jagiellońskiego w latach 1364—1764. T. 1. Kraków, 1964; Gospodarka i budynki Uniwersytetu Jagiellońskiego od XV do XVIII wieku. Warszawa; Kraków, 1973; Голенченко Г.Я. Студенты Великого княжества Литовского в Краковском университете XV—XVI вв. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Немировский Е.Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность бел. просветителя. Мн., 1990. С. 163—194; Wójcik K. Kontakty intelektualne z Litwą. Litwini na Uniwersytecie Krakowskim // Chrzest Litwy: Geneza. Przebieg. Konsekwencje. Lublin, 1990.

***Валерый Пазднякоў.***

**Крамяніцкі кляштар канонікаў латэранскіх.** Заснаваны ў мяст. Крамяніца (цяпер в. Дольная Крамяніца ў Зэльвенскім р-не Гродзенскай вобл.) у 1617 кашталянам віцебскім Мікалаем Вольскім і яго жонкай Барбарай Война. Юр'еўскі касцёл асвячоны ў 1657 віленскім біскупам Я.Даўгялам-Завішам. Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане асн. аб'ём і алтарная апсіда з паўкруглым завяршэннем накрыты дахам з агульным вільчыкам. Неф кафалікона складаецца з 2 травей, перакрытых зорчатымі нервюрнымі скляпеннямі. Падобныя скляпенні мае і роўнавысокая з нефам апсіда з паўкруглым завяршэннем. Сцены ўмацаваны моцна выступаючымі контрфорсамі. Тарэц даху на гал. фасадзе закрыты атыкавым франтонам з трохвугольным завяршэннем. Сам атык са ступеньчатым абрысам і рытмічнымі паўцыркульнымі нішамі мае рэнесансавы характар. У канцы 18 ст. да касцёла прыбудаваны больш нізкі, амаль кубічны аб'ём прытвора ў стылі, пераходным ад барока да класіцызму. Кляштар зачынены ў 1832, жылы корпус разбураны ў 1940-я г. У касцёле захавалася мармуровае надмагілле фундатара і яго жонкі, афармленае калонамі, валютамі і гербавым картушам; гал. і бакавыя алтары ў стылі барока. Касцёл дзейнічае. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 145.

***Тамара Габрусь.***

**Красаўскайтэ** (Krasauskaitė) Марыя Крысціна (13.3.1902, д. Плокшчай, Літва—20.06.1981), літоўскі гісторык. Д-р філасофіі (1926). Вучылася ва ун-тах Гале (1922—23) і Цюрыха (1923—26). У 1926—41 настаўніца ў гімназіях і настаўніцкай семінарыі ў Марыямполі і Вільнюсе, у 1945—49 — у літ. гімназіі ў Мюнхене. З 1949 у ЗША, працавала ў б-цы коледжа Гаверфорд (штат Пенсільванія). Заснавальніца літ. гістарыяграфіі генезісу і юрыд. статусу саслоўя баяр і даследаванняў прывілеяў вял. князёў літоўскіх да канца 15 ст. Склала палітычную характарыстыку Вітаўта для калектыўнай манаграфіі (1930).

*Тв.*: Die litauischen Adelsprivilegien bis zum Ende des XV Jahrhunderts. Leipzig, 1927; Vytauto charakteristika // Vytautas Didysis (1350—1430). Kaunas, 1930. (2 leid. Vilnius, 1988).

***Ірэна Валіканітэ.***

**Красінскі** (Скарабагаты-Красінскі) Валяр'ян (1795, Беларусь—22.12.1855), гісторык, публіцыст, палітычны дзеяч. З шляхецкай кальвініцкай сям'і. У 1818—22 вучыўся ў Віленскім ун-це. З 1822 у Варшаве, ва Урадавай камісіі рэлігійных вызнанняў і грамадскай асветы. З 1824 камер-юнкер імператарскага двара. Прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1830—31, выступаў за пашырэнне яго на ўсю тэр. ВКЛ і Рас. імперыю, устанаўленне агульнаслав. манархіі. У 1831 выехаў у Англію. У эміграцыі займаўся палітычнай дзейнасцю, літ. справай і гіст. даследаваннямі. Гал. праца — «Гістарычны нарыс узнікнення, развіцця і заняпаду рэфармацыі ў Польшчы і ўплыву, які зрабілі ідэйныя дактрыны на літаратуру, мараль і палітычныя адносіны гэтай краіны» («Historical sketch of the rise, progress and decline of the Reformation in Poland and of the influence wich the spiritual doctrines have exercised on that country in literature, moral and political respects», т. 1—2, Лондан, 1838—40; перакладзены на франц. і ням. мовы). З 1845 выкладаў у Кембрыджскім ун-це. Пад уплывам славяназнаўчых прац П.І.Шафарыка і Ф.Палацкага выдаў «Лекцыі па рэлігійнай гісторыі славянскіх народаў» («Lectures on religious historz of the slavonic nations», Эдынбург, 1845, перакладзены на франц. мову). Пера-

пісваўся з Ю.Завадскім, Я.Чачотам, І.Лялевелем, А.Э.Адынцом.

*Тв.*: Zarys dziejów powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 1—2. Warszawa, 1986.

***Валерый Пазднякоў.***

**Красінскі** (Krasiński) Ян Анджэй (14.8.1550, в. Шчукі, Мазовія—13.4. 1612), польскі гісторык. Паходзіў са шляхты. Вучыўся ў Венскім і Рымскім езуіцкіх калегіумах, ун-це ў Балонні (1570—72). З сярэдзіны 1570-х г. у Рэчы Паспалітай, займаў розныя царк. пасады, прыдворны караля Стафана Баторыя. Суправаджаў яго ў час Інфлянцкай вайны 1558—82, выконваў дыпламатычныя даручэнні. У 1573 апублікаваў прамову аб выбранні на трон Генрыка Валезы (панегірык каралю і Францыі). Для яго напісаў гал. сваю працу «Палонія» — першае друкаванае палітыка-геаграфічнае апісанне Рэчы Паспалітай. Кніга вызначалася змястоўнасцю і багаццем матэрыялу, у ёй К. ўхваляў дзярж. лад Рэчы Паспалітай як шляхецкай рэспублікі. Твор адыграў значную ролю ў фарміраванні на Захадзе ўяўленняў пра Рэч Паспалітую. Нарыс К. пра Інфлянцкую вайну не захаваўся.

**Краснадворскі замак**, рэзідэнцыйны комплекс канца 16—пач. 17 ст. каля в. Красны Двор у Жамойцкім княстве (цяпер мяст. Раўдандварыс Каўнаскага р-на, Літоўская Рэспубліка). Размешчаны на высокім правым беразе р. Нявяжа, непадалёку ад яе ўпадзення ў Нёман. Раней на гэтым месцы знаходзіўся замак Нямецкага ордэна Кёнігзбург (ці Ротэнбург), пабудаваны ў 1405. Пасля Грунвальдскай бітвы 1410 гэтая частка Жамойці вярнулася пад кантроль ВКЛ. Красны Двор заставаўся велікакняжацкай маёмасцю да 2-й пал. 16 ст. У 1576 перададзены Войцеху Гінтаўту-Дзевалтоўскаму, у валоданні нашчадкаў якога знаходзіўся да сярэдзіны 17 ст. Імі пабудавана рэнесансавая рэзідэнцыя, якая мела некаторыя абарончыя рысы. Да паўн.-ўсх. вугла чатырохвугольнай пабудовы далучана круглая ў плане вежа, якая мусіла мець 3 ярусы, але не была завершана. Пад двухсхільным дахам цагляны будынак мае 2 паверхі. Стылістычная прыналежнасць фарміравалася прафіляванымі паяскамі акон і шчытамі бакавых фасадаў, дэкарыраванымі аркаднымі нішамі. Атынкаваныя дэталі рэзка вылучаліся на фоне чырвоных цагляных сцен. У сярэдзіне 17 ст. сядзібу набыў вял. гетман Я.Радзівіл. У вайну 1654—67 у 1659 маёнтак заняты рас. войскамі, спустошаны і разбураны, але замак ацалеў ад пажару. У 1662 маёнтак перайшоў да Варлоўскіх, а пазней да Забелаў, у якіх у 1820-х г. набыты Б.Тышкевічам. У гады паўстання 1830—31 замак згарэў. У 1832—40 адбудаваны; у 1856—77 рэканструяваны з наданнем модных тады рыс неаготыкі: зменены абрыс акон (зроблена паўкруглае завяршэнне), вежа падвышана і ўвянчана зубчастым паяском вакол назіральнай пляцоўкі. У выніку будаўніцтва неагатычных аранжарэі, афіцыны і гаспадарчых будынкаў узнік архітэктурны ансамбль, вакол якога створаны пейзажны парк. Згарэў у 1944. Рэканструяваны ў 1950—60-х г. з вяртаннем рэнесансавых рыс (аўтары праекта С.Чаршкутэ і В.Юркштас).

*Літ.*: Baršauskas J. Raudondvario ansamblis. Kaunas, 1969; Pinkus S. Raudonės pilis // Lietuvos pilys. Vilnius, 1971.

***Алег Дзярновіч.***

**Краснаполле** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Рэчыцкім пав., на р. Тур'я. Упершыню ўпамінаецца як слабада ў інвентары Прапойскага староства 1741 сярод вёсак Засожскай вол., мела 16 гаспадарак. У інвентары староства 1750 К. згадваецца як вёска, былі 31 дым, млын. У 1751 у К. 30 гаспадароў. У 1754 К. названа мястэчкам, якому дадзена права на правядзенне 4 кірмашоў у год. У 1765 мястэчка Засожскага войтаўства Прапойскага староства, 128 дымоў (з іх 72 яўрэйскія), 3 млыны, фалюш. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Красневіч** Бальтазар (?, Вільня—1624), дзеяч кальвініскай царквы, педагог. Вучыўся ў Віленскай кальвінісцкай гімназіі, пасля за мяжой як апякун М.Чапліца ў Гайдэльбергу (1596, 1599—1600) і Альтдорфе (1596—97). У Гайдэльбергу атрымаў ступень магістра вольных навук (1600). У 1598 ездзіў у Жэневу, дзе сустракаўся з мясц. кальвіністамі. Пасля як апякун Ліпскіх вучыўся ў Базелі (1600—02), дзе атрымаў ступень доктара тэалогіі (1601). Пасля вяртання рэктар гімназіі ў Крылаве (1603—09). У 1611—24 актыўна ўдзельнічаў у жыцці кальвінісцкіх абшчын у ВКЛ: міністр Віленскага (1611), Біржанскага (1612), Віжунскага (1623) кальвінскіх збораў, з 1619 завілейскі суперінтэндант, духоўны дырэктар віленскіх правінцыяльных сінодаў (1614—17). У Базелі ў 1602 выдаў «Тэзісы па логіцы» («Theses logicae»), у 1603 — каментарыі да «Палітыкі» Арыстоцеля («In octo libros Politicos Aristoteles introductio»).

**Красны**, замак у Полацкім ваяв. на беразе Павульскага воз. Пабудаваны рас. ваеннай адміністрацыяй у 1563 у




Замак **Красны**. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.



час *Інфлянцкай вайны 1558—82* з дрэва і каменю. Трохвугольны ў плане з вежамі па вуглах (1 васьмерыковая з шатровым і 2 чацверыковыя з 2-схільнымі дахамі) і прамавугольнай у плане брамай з 2-схільным дахам. Замак быў абкружаны вадзяным ровам з мостам. Абарончыя сцены мелі ў верхніх частках баявыя галерэі з абламамі і байніцамі. На дзядзінцы размяшчаліся 1-павярховыя жылыя дамы. Вядомы паводле гравюры з малюнка С.*Пахалавіцкага*.

***Юрый Якімовіч.***

**Краўцэвіч** Аляксандр Канстанцінавіч (н. 13.9.1958, в. Лупачы Мастоўскага р-на), беларускі археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1999). Скончыў БДУ (1981). У 1981—84 аспірант Ін-та археалогіі АН СССР у Маскве. З 1985 малодшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі, з 1987 заг. археалагічна-архітэктурнага аддзела Бел. рэстаўрацыйнага ін-та ў Мінску, з 1994 1-ы прарэктар Гродзенскага ун-та, у 1995—99 дактарант БДУ, у 1996—97 асістэнт Ін-та гісторыі Ягелонскага ун-та ў Кракаве, з 1999 праф. ун-та імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне (філіял у Жэшаве), з 2001 праф. Вышэйшай эканам. школы ў Беластоку. Працы па матэрыяльнай культуры Беларусі 14—18 ст., палітычнай гісторыі ВКЛ 13—16 ст., этнічных працэсах на Беларусі ад сярэдневякоўя да навейшага часу.

*Тв.*: Майстар — наш продак. Мн., 1990; Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991; Стары Мір. Мн., 1993 (з Г.М.Якшук); Гродзенскі замак. Мн., 1993; Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда. Мн., 1993; Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка. Мн., 1994 (з Н.І.Здановіч, А.А.Трусавым); Вялікі князь Вітаўт. Мн., 1998; Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 1998 (2 выд. Rzeszow, 2000); Powstanie Wielkiego Księstwa Litewskiego. Białystok, 2003; Міндаўг: Пачатак вялікага гаспадарства. Мн., 2005.

**Краўшар** (Kraushar) Аляксандр (псеўд. Алькар; 17.1.1843, Варшава—11.12.1931), польскі гісторык, публіцыст, юрыст. У 1862—67 вучыўся ў Варшаўскай гал. школе. У час паўстання 1863—64 арганізаваў друкаванне ў Лейпцыгу брашур для паўстанцаў. З 1871 адвакат. Прытрымліваўся ліберальных поглядаў. Вывучаў гісторыю Рэчы Паспалітай і Польшчы 16—19 ст. Спец. даследаванні прысвяціў палітычным адносінам Рэчы Паспалітай з Расіяй у 18 ст., гісторыі яўрэяў Польшчы і ВКЛ, паўстанню 1830—31. Яго працы вызначаюцца багаццем выкарыстанага архіўнага матэрыялу (часам другаснага і некрытычна апрацаванага), які ў значнай ступені не захаваўся. Выдаваў гіст. крыніцы, у т.л. мемуары Ю.У.Нямцэвіча. Пакінуў успаміны.

*Тв.*: Historia Żydów w Polsce. T. 1—2. Warszawa, 1865—66; Dzieje Krzysztofa z Arciszewa Arciszewskiego, admirała i wodza Holendrów w Brazylii, starszego nad armatą koronną za Władysława IV i Jana Kazimierza, 1592—1656. T. 1—2. 1892—93; Książę Repnin i Polska w pierwszym czteroleciu panowania Stanisława Augusta. T. 1—2. Warszawa, 1897 (3 wyd. 1900); Rozwój dziejopisarstwa polskiego. Warszawa, 1928.

**Крачкоўскі** Юльян Фаміч [25.7(6.8).1840, в. Азяты Кобрынскага пав.—25.7(6.8).1903], беларускі гісторык, археограф, этнолаг. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1861). Выкладаў у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, у Тульскай губ., працаваў інспектарам нар. вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі, дырэктарам Полацкай настаўніцкай семінарыі і Віленскага хрысціянскага настаўніцкага ін-та, Туркестанскай настаўніцкай семінарыі. У 1888—1902 старшыня Віленскай археагр. камісіі. Складальнік 16-га і 20-га тамоў, аўтар прадмовы да іх і да 25-га тома «Актаў Віленскай камісіі», рэдактар і аўтар прадмоў да 12-га і 13-га тамоў «Археаграфічнага зборніка дакументаў». Удзельнічаў у падрыхтоўцы 9-га археалагічнага з'езда (Вільня, 1893). Збіраў бел. фальклор. Даследаваў тапаграфію старой Вільні, гісторыю яе правасл. храмаў. Аўтар першага ў рас. гістарыяграфіі нарыса уніяцкай царквы (напісаны з правасл. пазіцый).

*Тв.*: Быт западнорусского селянина. М., 1874; Очерки униятской церкви // Чтения в Обществе истории и древностей Российских. 1871. Кн. 1—2; 1876. Кн. 3—4; Пятидесятилетие воссоединения западнорусских униатов с православною церковью (1839—1889 гг.). Вильна, 1889; Памяти Помпея Николаевича Батюшкова. Вильна, 1892; Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Православные святыни города Вильны в XIV—XVIII вв. // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа, 1803 г.—1903 г. Ч. 1, отд. 1. 1803 г.—1812 г. Вильна, 1905.

*Літ.*: Голуб В. Юлиан Фомич Крачковский: Биографический очерк // Отчет Виленской Публичной Библиотеки за 1903 г. Вильна, 1904; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 111—114.

**Крачэтнікаў** (Кречетников) Міхаіл Мікітавіч [1729—9(20).5.1793], расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Вучыўся ў Сухапутным шляхецкім корпусе. У час Сямігадовай вайны 1756—63 палкоўнік, у вайну з Турцыяй 1768—74 — ген.-маёр. У 1772—75 пскоўскі губернатар. У 1773 кіраваў у Полацку нарадай па рэарганізацыі кагалаў на бел. землях, далучаных да Рас. імперыі. У 1775 гал. камісар па канчатковай дэмаркацыі граніцы паміж Рас. імперыяй і Рэччу Паспалітай, за што атрымаў званне ген.-паручніка. З 1775 намеснік Астраханскай, Цвярской, Калужскай і Разанскай губерняў, а пасля іх рэарганізацыі (1777) — Тульскай, Разанскай і Калужскай. У 1790 упраўляючы новарасійскімі губернямі, ген.-аншэф. Камандаваў рас. войскамі на тэр. ВКЛ у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792*. 19.12.1792 прызначаны ген.-губернатарам Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай губерняў. Атрымаў у Веліжскім старастве Полацкай губ. 1849 сялян і 8173 дзесяціны зямлі (маёнткі Тхарына і Хухава). У 1793 атрымаў тытул графа.

*Літ.*: Дневные записки о движении и действиях войск русских в Великом княжестве Литовском и Польше в 1792 г., находившихся под начальством генерал-аншефа М.Н.Кречетникова // Чтения в О-ве истории и древностей российских. 1863. Кн. 4; Письма к генералу и кавалеру М.Н.Кречетникову графа З.Г.Чернышева и других с 1769 по 1785 г. // Там жа; Федоров И.И. Граф М.Н.Кречетников. Каменец-Подольский, 1893; Анішчанка Я. Акоп уздоўж мяжы // Спадчына. 1992. № 3; Яго ж. Просім, пан генэрал // Наша ніва. 1994. № 7.

***Яўген Анішчанка.***

**Крман** (Krman) Даніэль (28.8.1663, в. Амшэні, Славакія—23.9.1740), славацкі рэлігійны і грамадскі дзеяч, падарожнік. Вучыўся ў Браціславе, Лейпцыгу, Вітэнбергу. Выкладаў у славацкіх навучальных установах. Уваходзіў у склад пратэстанцкага пасольства да шведскага караля Карла XII, якога суправаджаў у паходах 1708—09. Аўтар дзённіка на лацінскай мове, у якім апісаў гаспадарку, культуру, прыродныя і

нац. асаблівасці Польшчы, Літвы, Беларусі, Украіны, Малдовы, даў звесткі пра Палтаўскую бітву 1709 і інш. З 1729 адбываў пажыццёвае зняволенне ў Браціславе. Пакінуў вял. літ. спадчыну.

*Тв.*: Itinerarium. Cestornej dennik. Bratislawa, 1969; Укр. пер. — Подорожній щоденник (Itinerarium 1708—1709). Київ, 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Крожскі езуіцкі калегіум**. У г. *Кроажы* езуіты з'явіліся ў 1607 па запрашэнні біскупа М.Гедройца. Ён купіў для іх зямлю і запісаў 2000 венгерскіх дукатаў на будаўніцтва калегіума. З 1608 у горадзе працавала езуіцкая місія, у 1615—18 — рэзідэнцыя. З 1618 дзейнічаў калегіум. З 1620 у ім працавала семінарыя для жмудскіх дзяцей (пераведзена з Вільні). У 1613 біскуп М.Пац надзяліў калегіум 3 вёскамі, а кн. М.К.Радзівіл Сіротка падараваў пад размяшчэнне калегіума свой замак. Калегіум будаваўся ў 3 этапы: 1-ы пачаўся ў 1616, 2-і вёўся ў 1666—71 і 3-і — з 1696. Пры яго будаўніцтве былі выкарыстаны сцены стараж. радзівілаўскага замка. У 1616 пачаліся заняткі, якія ахоплівалі класы да паэтыкі, пазней выкладалі рыторыку, філасофію і маральную тэалогію. Навучанне вялося як для клірыкаў, так і для свецкіх студэнтаў. У 1625 дзейнічала муз. бурса. У 1635 на фундацыю П.Шукшты пачаў працаваць канвікт для збяднелай шляхты (у 1665 у ім было 16, у 1693 — 12 навучэнцаў). З 1640 пры калегіуме працаваў тэатр.

***Валерый Грынявецкі.***



Да арт. **Крожскі езуіцкі калегіум**. Інтэр'ер касцёла.

**Кройц** (Kreutz) Людвік (?—1773), гаспадарчы дзеяч ВКЛ, картограф. Каморнік Віленскага ваяв., у 1765 падаў Скарбовай камісіі ВКЛ 2 праекты рэфармавання Берасцейскай і Кобрынскай эканомій. Зыходзіў з неабходнасці рэфармавання эканомікі на падставах вызвалення сялян ад паншчыны і прадстаўлення ім эканам. свабоды. Відаць, быў прыхільнікам найб. распаўсюджанай эканам. тэорыі 2-й пал. 18 ст. — тэорыі фізіякратаў. Мэта 1-га праекта (сак. 1765) — «без усялякага абцяжарвання падданых» амаль у 2,5 раза павялічыць даходы з сельскай гаспадаркі эканомій праз ліквідацыю фальваркаў, скасаванне паншчыны і замену ўсіх сял. павіннасцей чыншам. 2-і праект (май 1765) прадугледжваў змены ў гарадах эканомій: будаўніцтва ў Берасці замкавага бровара, цагельні, рудні, заснаванне новага горада Станіславаў Каралеўскі з кірмашамі, таргамі, крамамі і гасцінцамі. У крас. 1765 К. «за практычныя здольнасці» прызначаны генеральным мернічым дзярж. маёнткаў ВКЛ і праводзіў рэвізію Берасцейска-Кобрынскай і Шаўліскай эканомій. У 1769 склаў «Данясенне пра стан Шаўліскай эканоміі», дзе імкнуўся паказаць неабходнасць выкарыстання замежнага вопыту пры правядзенні мерапрыемстваў па паляпшэнні гаспадарчага становішча. У 1772 зрабіў для эканам. адміністрацыі карту Шаўліскай эканоміі. Вакол праектаў К. разгарнулася дыскусія. Свае меркаванні выказаў і А.*Тызенгаўз*. Ён меў уласны план гаспадарчых мерапрыемстваў, якія грунтаваўся на супрацьлеглых прынцыпах — аднаўленні фальваркаў і паншчыны, хоць і з паляпшэннем апрацоўкі зямлі і выкарыстаннем тагачаснай зах.-еўрапейскай тэхнікі. Праекты К. не былі рэалізаваны.

*Літ.*: К і т у р к а І. Нескарыстаная альтэрнатыва развіцця Берасцейскай і Кобрынскай эканомій у другой палове 18 ст. // Гістарычны альманах. Гародня, 2001. Т. 5; Я е ж. «За вольнасць і больш заплацяць...»: Спрэчкі пра аграрныя рэформы ў ВКЛ у другой палове XVIII ст. // Спадчына. 2002. № 4; Я е ж. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця. Гродна, 2003.

***Ірына Кітурка.***

**Кром** Міхаіл Маркавіч (н. 13.1. 1966, г. Санкт-Пецярбург), расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1993). Скончыў Ленінградскі дзярж. педагагічны ін-т (1987). У 1989—96 выкладаў у медыцынскім вучылішчы пры Санкт-Пецярбургскай дзярж. медыцынскай акадэміі, з 1996 у Еўрапейскім ун-це ў Санкт-Пецярбургу (дацэнт, з 2002 дэкан ф-та гісторыі). Даследуе гісторыю ВКЛ і Расіі 15—16 ст., пытанні гіст. антрапалогіі, мікрагісторыі, палітычнай гісторыі новага часу.

*Тв.*: Понятие «старины» в политической и правовой культуре Великого княжества Литовского XV—XVI веков // Наш радавод. Гродно, 1991. Кн. 3; Die Konstituierung der Szlachta als Stand und das Problem staatlicher Einheit im Grossfürstentum Litauen (15./16. Jahrhundert) // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1994. H. 4; Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Стародубская война (1534—

1537 гг.) // Очерки феодальной России. М., 1999. Вып. 3; Историческая антропология. СПб., 2000 (2 изд. 2004); Источники для реконструкции истории русско-литовских отношений 1538—1541 гг. // Вспомогательные исторические дисциплины. СПб., 2000. Т. 27; Россия и Великое княжество Литовское: два пути в истории // «Английская набережная, 4»: Ежегодник С.-Петербургского научного общества историков и архивистов, 2000 г. СПб., 2000; Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки: первая половина XVI века. М.; Варшава, 2002; Неизвестный привилей Сигизмунда I Смоленску (1513 год) // От Древней Руси к России нового времени. М., 2003.

**Кромер** Андрэас, беларускі будаўнік і архітэктар 1-й пал. 17 ст. Па паходжанні немец, магістр мулярскага рамяства, жыў і працаваў у Полацку, Менску, Будславе і інш. («Andreas Kromer, faber murarius, natione germanus, fide ruthenus de Polocia»). У 1619—22 паводле заказу архіепіскапа І.Кунцэвіча адбудаваў *Полацкі Сафійскі сабор*. Па праектах К. і пад яго кіраўніцтвам пабудаваны касцёлы *Будслаўскага кляштара бернардзінцаў* (1638—43) і *Менскага кляштара бенедыкцінак* (1647—49). У 1653 пабудаваў каменную агароджу з брамай *Менскага Петрапаўлаўскага манастыра*.

*Літ.*: Dzianisau U. Kościoł i klasztor benedyktynek w Mińsku // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7, z. 3; Дзянісаў У. Мінскія бенедыкцінкі: Гісторыя зруйнаванага кляштара // Наша вера. 2003. № 2.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Кромер** (Kromer) Марцін (1512, г. Беч, Польшча—23.3.1589), польскі гісторык, пісьменнік, дыпламат. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі (1528—30) і ун-це Балонні, дзе ў 1539 атрымаў ступень доктара права; у Рыме вывучаў тэалогію і прыняў духоўны сан. Пасля вяртання на радзіму быў сакратаром біскупа Пятра Гамрата, з 1544 — караля Жыгімонта II Аўгуста. Пасада дала яму магчымасць пазнаёміцца з найважнейшымі механізмамі дзярж. улады і быць у эпіцэнтры палітычнага жыцця. У 1544 атрымаў пасаду кракаўскага каноніка і, натхнёны Жыгімонтам Аўгустам, пачаў працаваць над гісторыяй Польшчы. Адначасова займаўся ўпарадкаваннем Кароннага архіва ў Кракаве (1550—51). Неаднаразова выконваў дыпламатычныя даручэнні. Удзельнічаў у Трыдэнцкім саборы 1562—63, Люблінскім




М.**Кромер**. Партрэт канца 16 ст.

сойме 1569. З 1570 каад'ютар (нам. біскупа), з 1579 вармінскі біскуп. Прыхільнік моцнай каралеўскай улады. Праца на лацінскай мове «Аб паходжанні і гісторыі палякаў» («De origine et rebus gestis Polonorum», Базель, 1555, наступныя выданні выйшлі там жа ў 1558, 1568, 1582, у Кёльне ў 1589, нямецкі пераклад выйшаў у Базелі ў 1562) ахоплівае перыяд ад легендарных часоў да 1506. У значнай ступені гэта кампіляцыя хронік Я.*Длугаша*, *Мацея з Мехава*, Б.*Вапоўскага*, звесткі якіх К. крытычна пераасэнсаваў. Часта бываючы ў ВКЛ, ён ведаў бел.-літ. летапісы, крытычна ставіўся да легенды пра рымскае паходжанне літоўскай знаці. У выданнях яго «Гісторыі» пасля 1584, асабліва ў першым перакладзе на польскую мову М.Блажоўскага («O sprawach, dziejach i wszystkich inszych potocznościach koronnych polskich», Кракаў, 1611), шмат інфармацыі пра ВКЛ. Як рэлігійны палеміст К. быў адным з дзеячаў контррэфармацыі. У працы «Аб веры і навуцы лютэраўскай. Размовы шляхціца з манахам» (1551—54), палемізуючы з С.Ажахоўскім і А. Фрыч-Маджэўскім, адстойваў догматы каталіцызму. Яго кніга «Польшча, або Аб становішчы, звычаях, уладзе і кіраванні Каралеўства Польскага» (Кёльн, 1577) напісана для караля Генрыка Валезы як дапаўненне да твора «Аб паходжанні і гісторыі палякаў». У ёй К. даў звесткі пра адм. падзел Рэчы Паспалітай, яе ландшафты, прыродныя багацці, этнічны склад, гарады, звычаі, гербы, сац. групы насельніцтва, палітычны лад і дзярж. ўстановы, змясціў поўны спіс сенатараў пасля Люблінскай уніі 1569. На польскую мову кнігу пераклаў У.Сыракомля (Вільня, 1853). Аўтар музычных трактатаў «Асновы музыкі» (1532) і «Аб стварэнні музыкі» (1534).

*Тв.*: Kronika Polska. Sanok, 1857; Polska, czyli o położeniu, ludności, obyczajach, urzędach i sprawach publicznych Krolestwa Polskiego księgi dwie. Olsztyn, 1977.

***Альбіна Семянчук.***

**Кронскі манастыр.** Існаваў у мяст. Кроні Ковенскага пав. (літ. Круоніс, цяпер мястэчка Кайшадорскага р-на, Літоўская Рэспубліка). У 1570—80 у Кронях уладальнікамі мястэчка князямі Агінскімі пабудавана правасл. царква (1-я ў этнічнай Літве), у 1610 на яе месцы — мураваная уніяцкая царква, у 1628—29 — манастыр пры ёй. Царква зальнага тыпу, з вял. 2-яруснай вежай-званіцай над бабінцам, 1-ы ярус ве-





**Кронскі манастыр.** Надмагіллі С.Л. і Б.М. Агінскіх.



**Кронскі манастыр.** Царква. Фота 1968.

жы — чацвярык, 2-і — васьмярык. Над сяродкрыжжам зроблены купал з ліхтарыкам. У інтэр'еры захаваліся мастацкія надмагіллі фундатара царквы, падкаморыя троцкага Б.М.Агінскага і яго сына С.Л.Агінскага.

*Літ.*: Miškinis A. Kruonis // Lietuvos TSR urbanistikos paminklai. Vilnius, 1978. T. 1.

**Крошынскія**, княжацкі род у ВКЛ. Відаць, былі адгалінаваннем смаленскіх ці чарнігаўскіх князёў. Карысталіся гербам, які ў геральдычных творах 16—17 ст. называўся «Ліхтар» і быў, мабыць, мадыфікацыяй трохзубца Рурыкавічаў. Першы вядомы прадстаўнік роду князь Іван Раманавіч упамінаецца ў 1446—50. У 2-й пал. 15 ст. некалькі князёў К. валодалі вотчынамі на У Смаленскай зямлі, занятай у 1487 вял. маскоўскім князем Іванам III. Узамен князь Канстанцін Фёдаравіч К. (?—пасля 1513), акольнічы і казначэй смаленскі, атрымаў ад вял. князя літоўскага ў 1503 маёнткі Дубна і Лунна ў Гарадзенскім павеце. Іван Піліпавіч К. (?—каля 1527) валодаў Асташынам у Навагародскім пав., праз шлюб з князёўнай Ганнай Буйніцкай атрымаў Буйнічы каля Магілёва. Яго сын Васіль (?—да 1539) праз шлюб набыў маёнтак Шупені ў Цяцерынскай воласці. На яго сыне Іване (каля 1510—61) гэтая галіна К. скончылася. Другі сын Піліпа Цімафей (?—каля 1543), акольнічы смаленскі, у 1514 атрымаў ад вял. князя Жыгімонта Старога ў пажыццёвае валоданне Раканцішкі ў Жамойці, якія пазней разам з інш. жамойцкімі маёнткамі сталі асн. уладаннямі яго нашчадкаў. З іх Іван Цімафеевіч (?—каля 1570), намеснік упіцкі (1546), браслаўскі (1554—58), у 1553 купіў у Івана Гарнастая маёнтак Сакалова ў Слонімскім пав., са сваіх, пераважна жамойцкіх, маёнткаў у 1567 ставіў у войска 33 коннікі. Гэта галіна існавала ў Літве і Жамойці да канца 17 ст.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 186—193.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кругер** (Krüger) Освальд (каля 1598, Прусія—6.5.1655), матэматык, архітэктар, оптык, астраном, філолаг. Д-р філасофіі і вольных мастацтваў (1632). У 1618 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў, з 1630 ксёндз. У 1618—20 выкладаў граматыку ў Нясвіжы. У 1622—25 вывучаў філасофію ў Рыме, у 1626—30 — тэалогію ў Вільні. У 1631—32 і 1633—34 выкладаў матэматыку ў Нясвіжы, у 1632—33 і 1634—48 — матэматыку і стараж.-яўр. мову ў Вільні. У 1641—48 рэгент Папскай семінарыі (алюмната) і дыяцэзіяльнай семінарыі ў Вільні. У 1648—53 выкладаў матэматыку і маральную тэалогію ў Нясвіжы, у 1653—55 рэктар Нясвіжскага калегіума. Архітэктар адбудовы Нясвіжскага замка пасля пажару. У 1655 прызначаны каралеўскім інжынерам, наглядаў за пабудовай ваенных машын у Гародні. Аўтар прац па матэматыцы, астраноміі, ваеннай інжынерыі, оптыцы і метралогіі: «Ясныя матэматычныя тэарэмы і праблемы з аптычнай геаметрыі, астраноміі» («Illustriora theoremata et problemata mathematica ex opticis geometria, astronomia, sphaera elementari computo ecclesiastices», Вільня, 1633), «Практычная арыфметыка для маладых вучняў» («Arithmetica practica in usum studiosae iuventutis», Вільня, 1635), «Паралельны прыцэл для наводкі гармат, недаўна вынайдзены і апрабаваны на практыцы» («Parallela horoscopa ad bellicorum tormentorum directionem recens inventa et practice probata», Вільня, 1636), «Катоптракаўстыка, або Пякучае люстра» («Catoptrocaustica sive specula ustoria», Вільня, 1636), «Рымскі каляндар» («Calendarium Romanum», Вільня, 1637), «Астранамічная сотня» («Centuria astronomica», Вільня, 1639; рус. пераклад В.Кіпрыянава «Сотня астраномская», Масква, 1707), «Зрокавыя, аптычныя, люстраныя, катоптракаўстычныя тэарэмы» («Theoremata de oculo, optica, catoptrica, catoptrocaustica», Вільня, 1641), «Вока» («Oculus», Вільня, 1642), «Тэарацэнтрыка, або Матэматычныя развагі пра цэнтр і пункты» («Thearocentrica sive mathematicae de centro et punctis considerationes», Вільня, 1644), «Тлумачэнне блажэннай пасхаліі» («Exegesis festivitatis paschalis», Вільня, 1647), «Вясёлка, або Пра праяўленне колераў» («Iris sive de coloribus apparentibus», Вільня, 1647), «Развагі пра вакуум» («Dissertatio de vacuo», Вільня, 1648).

***Валерый Пазднякоў.***

**Круглае** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Круглянскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., на р. Друць. Упершыню ўпамінаецца ў 1524, калі ўладар маёнтка К. князь Васіль Палубінскі судзіўся з князем Фёдарам Іванавічам Дудакоўскім, каб той перастаў чыніць крыўды круглянцам. Пасля смерці В.Палубінскага ў 1550 і яго сыноў Льва і Івана адзінай спадчынніцай засталася Марына, дачка першага брата. Яна была ў шлюбе з Іванам Копцем, потым з Станіславам Нарушэвічам. Паводле попісу войска ВКЛ 1567, С.Нарушэвіч павінен быў паставіць з маёнтка К. ў войска 12 узброеных коннікаў. У 1568 маёнткі М.Палубінскай адышлі яе дачцэ Марыне, якая пазней узяла шлюб з Каспарам Дэмбінскім. У 1595 М.Дэмбінская мела канфлікт з князем Фёдарам Рыгоравічам Друцкім-Горскім за наезд на К. У 1600 маёнтак належаў Станіславу Расцінскаму, які ў тым жа годзе прадаў яго шляхціцу Гарасіму Мікалаевічу Ломскаму. У 1621 яго сын Юрый прадаў маёнтак за 4000 коп грошаў Льву Сапегу. Пасля смерці сына Л.Сапегі Казіміра К. адышло Ганне Сапежанцы, унучцы яго стрыечнага брата Крыштофа Станіслава. У 1667 маёнтак перайшоў да князя Аляксандра Палубінскага. Захаваліся інвентары за 1669 і, відаць, за 1673, мястэчка К. мела 72 двары. Пасля смерці А.Палубінскага ў 1679 маёнтак К. — уласнасць Іаанны Тэадоры Нарушэвіч, якая ўзяла другі шлюб з князем Янам Агінскім, у 18 ст. К. належала іх нашчадкам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Круглянскага р-на. Мн., 1996.

***Валерый Грынявецкі.***

**Крупка** (цяпер Крупкі, горад, цэнтр Крупскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., на р. Бобр. Магчыма, заснаваны ў 2-й пал. 16 ст. на землях маёнтка Шыйка і належалі князям Сангушкам. Як мястэчка пазначана на карце Т.Макоўскага (1613). Упершыню К. (разам з дваром Грушка) упамінаецца як уласнасць Сангушкаў у дакуменце 1639. У ім паведамляецца, што ў маі 1627 Сымон Самуэль Сангушка вызначыў на забеспячэнне сваёй 2-й жонкі, Гелены Корвін-Гасеўскай, 70 тыс. злотых, з якіх 30 тыс. былі забяспечаны яго маёнткамі Багрынава, К. і Грушка ў Аршанскім пав., а 40 тыс. — маёнткам Горваль. У выпадку смерці князя



яго ўдава мела права карыстацца гэтымі маёнткамі да таго часу, пакуль яго дзеці ад 1-га шлюбу — Казімір, Ян Уладзіслаў і Геранім — не выплацяць ёй азначаную суму. Аднак Гелена памерла раней за мужа, але свае правы на гэтыя маёнткі паспела перадаць Корвін-Гасеўскім. Пасля смерці С.С.Сангушкі ў 1638 Казімір і Ян Уладзіслаў склалі ў 1639 пагадненне з Корвін-Гасеўскімі. Пасля смерці Яна Уладзіслава ў 1652 і Казіміра ў 1655 адзіным уласнікам сангушкаўскіх маёнткаў застаўся Геранім, малалетні сын Яна Уладзіслава. З 1667 у закладзе ў Пятра Шваба-Шванскага, 60 дымоў, млын. Пасля смерці Г.Сангушкі ў 1684 уладальнікам К., напэўна, стаў яго старэйшы сын Казімір, надворны маршалак ВКЛ. Тарыф Аршанскага пав. за 1743 называе ўласніцай маёнткаў К., Грушка і Шыйка з 55 дымамі яго ўдаву. Пазней маёнткі атрымаў малодшы брат Казіміра Павел, вял. маршалак ВКЛ. Пасля смерці Паўла ў 1750 частку маёнткаў атрымала яго жонка Барабара з роду Дубінаў, а рэшту — малалетнія сыны Юзаф Паўлін, Геранім і Януш. Былі падзелены і т.зв. «бел. маёнткі» — маёнтак К., або Крупскае графства, з фальваркам Стараселле, дваром і сялом Шыйка, мяст. К., а таксама суседнія Талачынскае графства і Смалянскае княства. Юзаф Паўлін ажаніўся з Ганнай Цэнцер і са згоды маці ў 1774 запісаў жонцы грашовае забеспячэнне з частак Крупскага і Талачынскага графстваў. У 1781 Юзаф Паўлін памёр і яго ўдава ўступіла ў правы завешчаным. У 1790 Барбара здала свае маёнткі на 4 гады ў арэнду Крыштафу Мяскоўскаму. Г.Цэнцер, 2-м шлюбам замужняя за графам Каятанам Патоцкім, пацвердзіла Мяскоўскаму яго арэнднае права. Аднак сыны Барбары Я. і Е. Сангушкі не пажадалі лічыцца з правамі Мяскоўскага. Яны ўчынілі наезд, захапілі К. і Шыйку, выгнаўшы адтуль арандатара, апячаталі склады ў Талачыне сваімі пячаткамі. Гэта стала падставай да доўгага судовага працэсу, у выніку якога правы графіні Патоцкай і Мяскоўскага былі пацверджаны. У 1790 — 82 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Крупскага р-на. Мн., 1999.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Крупкі**, горад, цэнтр раёна Рэспублікі Беларусь, гл. *Крупка*.

**Круповіч** Маўрыцый (13.9.1823, г. Гродна—24.1.1891), гісторык, архівіст, журналіст. У 1842—46 вучыўся на юрыд. і філасофскім ф-тах Дэрпцкага ун-та. У 1846—51 працаваў перакладчыкам у рэвізійнай камісіі Архіва стараж. актавых кніг у Гродне, у 1852—55 — у Віленскім цэнтр. архіве. З 1855 навук. сакратар Віленскай археал. камісіі. Займаўся таксама прыватнымі архівамі (упарадкаваў сямейны архіў князёў Агінскіх у Рэтаве ў Жамойці). Выдаў *«Збор дзяржаўных і прыватных актаў»* (ч. 1, 1858). Быў фактычным выдаўцом-рэдактарам *«Скарбніцы грамат»* І.Даніловіча (т. 1—2, 1860—62). У 1860—63 супрацоўнік газ. «Kurier Wileński» («Віленскі кур'ер»), у 1866—67 працаваў у б-цы Варшаўскага ун-та, з 1879 у варшаўскім цэнзурным камітэце.

***Наталля Мазоўка.***

**Крупчыцкі бой 1794**, бой паміж паўстанцамі і рас. войскам у час *паўстання 1794*. Адбыўся 17 вер. каля в. Крупчыцы Кобрынскага пав. (цяпер Жабінкаўскі р-н). З абодвух бакоў удзельнічала каля 20 тыс. чал. Дзякуючы выгаднай стратэгічнай сітуацыі паўстанцы пад камандаваннем К.Серакоўскага з дапамогай артылерыі (28 гармат) паспяхова стрымлівалі атакі кавалерыі і пяхоты непрыяцеля. Аднак пасля абыходнага манеўру А.В.Суворава і вываду ім часткі войска цераз р. Трасцяніца ў фланг абароны паўстанцаў апошнія пачалі адыходзіць у напрамку Берасця. У час бою абодва бакі страцілі каля 3 тыс. чал. забітымі і параненымі. 19 вер. каля в. Цярэспаль Берасцейскага пав. рас. войскі разбілі паўстанцаў.

*Літ.*: Емяльянчык У. Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі на Беларусі). Мн., 1994.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Крупчыцкі кляштар кармелітаў.** Існаваў у в. Крупчыцы (цяпер у складзе в. Чыжэўшчына Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл.) у 1676—1832. У дакументах часам называўся Нелаевіцкім (узнік на землях маёнтка Нелаевічы). Першая фундацыя кармелітам у Крупчыцах выдадзена ў 1676 берасцейскім шляхціцам Андрэем Асоўскім (пацверджана ў 1682). У 1699 па хадайніцтве дзяржаўцы навакольных зямель Я.П.Нестаровіча царк. кіраўніцтва зацвердзіла канчатковую дабудову кляштара. Будынак жылога памяшкання цагляны, 2-павярховы, на каменным падмурку, накрыты гонтай і саломай, у канцы 18 ст. — чарапіцай. Да 1701—02 дабудаваны ўвесь комплекс, куды ўваходзіў драўляны касцёл і гаспадарчыя пабудовы. У 1729 касцёл асвячоны пад назвай Нявіннага Зачацця. На працягу 18 ст. мясцовая шляхта падаравала манахам фальварак Нелаевічы (1701), в. Чыжэўшчына і фальварак Багданы (1714), у 1737 Нестаровічы часова перадалі ў заклад кармелітам маёнтак Ківаверты-Хадасы. У 1728 у касцёле ўстаноўлены арган. У 1738 М.Непакайчыцкая заснавала пры кляштары брацтва св.Юзафа, а князь Шуйскі адпісаў у 1747 кармелітам 4 тыс. злотых, забяспечаных маёнткам Рыкавічы. У 2-й пал. 18 ст. ў кляштары жылі 14 манахаў на чале з прыёрам. У час паўстання 1794 каля вёскі адбыўся бой паўстанцаў з рас. войскамі. Указам імператара Паўла I у 1797 кляштар перададзены з Луцка-Берасцейскай у Віленскую дыяцэзію. У 1800 віленскі біскуп Я.Н.Капакоўскі па хадайніцтве Нестаровічаў ператварыў касцёл у прыходскі. У канцы 18—пач. 19 ст. пры кляштары існавала школа. У яе б-цы было 278 тамоў на лацінскай і польскай мовах. Кляштар валодаў 12 валокамі зямлі; яму належалі 17 сялянскіх сядзіб (26 сем'яў). У 1832 кляштар зачынены. Касцёл у 1866—67 пераатвораны ў правасл. царкву св. Уладзіміра. Рэшткі жылога памяшкання разабраны ў 1891. У 1894 на іх месцы пабудавана мураваная царква.

*Літ.*: Бензярук А. Кармяліцкі кляштар у Крупчыцах // Бел. мінуўшчына. 1996. № 2.

***Анатоль Бензярук.***

**Крутагорская бітва**, Койданаўская бітва, міфічная бітва, якая, паводле некаторых крыніц, адбылася ў 13 ст. паміж войскам ВКЛ і татарамі каля Крутагор'я (Койданава, цяпер г. Дзяржынск) на ПдЗ ад Менска. У саюзе з татарамі выступілі галіцкія князі Даніла і Васілька Раманавічы, якія помсцілі князю Міндоўгу за набегі і рабаванні Галіцка-Валынскага княства. Бітву розныя гісторыкі адносяць да 1241, 1249, 1272 і 1276. Татары і іх саюзнікі

былі разбіты. Паводле падання, татарскімі войскамі камандаваў хан Койдан (Кайдан). Тут ён нібыта быў забіты і пахаваны; татары, якія былі з ім, пасяліліся на гэтай зямлі, а іх нашчадкі жывуць тут і цяпер. Пасля бітвы Крутагор'е было перайменавана ў Койданава. Аднак летапісы Археалагічнага т-ва (17 ст.), Рачынскага (16 ст.), Еўраінаўскі (канец 17 ст.), якія апавядаюць пра 13 ст., не ўпамінаюць Койдана. Хроніка Быхаўца (16 ст.), «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582) М.Стрыйкоўскага сведчаць, што паход на Навагародак арганізаваў хан Заволжскай арды Балаклай (Булаклай; асоба міфічная). У бітве пад Крутагор'ем ён нібыта быў разбіты войскам вял. князя ВКЛ Скірмунта (асоба таксама міфічная). Іпацьеўскі, Супрасльскі, Нікіфараўскі і Слуцкі летапісы (16 ст.) упамінаюць імя Койдана пры пераліку самых вядомых татарскіх военачальнікаў, але не звязваюць яго з бітвай пад Крутагор'ем. «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» называе Койдана ўнукам Батыя, але сцвярджае, што татарамі камандаваў Балаклай. Позні час напісання гіст. крыніц (праз 3—4 стагоддзі пасля падзеі), упамінанне міфічных асоб, шмат супярэчнасцей даюць падставу меркаваць, што К.б. — відаць, міф, створаны ў 16 ст.

*Літ.*: Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Мн., 1992. С. 92; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 154, 166—167; Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2 выд. Мн., 1991. С. 50—53.

***Анатоль Валахановіч.***

**крыве**, вярхоўны язычніцкі жрэц у балцкіх народаў. Упершыню пра яго паведаміў у «Хроніцы зямлі Прускай» *Пётр з Дусбурга* (14 ст.), які адзначыў, што прусы мелі першасвятара К. (Criwe), што жыў у свяшчэнным месцы Ромаў (Romow) у Надровіі, але пад яго духоўнай уладай знаходзіліся таксама «літвіны і астатнія народы зямлі Лівонскай»; ён быў хавальнікам свяшчэннага агню, спальваў на патрэбу багам трэцюю частку трафеяў, меў сувязь з замагільным светам і мог прасачыць людскія лёсы. Пра К. паведамляў храніст М. фон Ярошын (14 ст.) і больш падрабязна — С.Грунаў і інш. аўтары 16 ст. Яны ўдакладняюць, што К. займаўся прадказаннямі, тлумачыў волю багоў па громе і маланцы. Атрыбут К. — крывая паліца. Позція літоўскія паданні ведаюць Крыве-Крывайціса — жраца бога Пяркунаса ў свяцілішчы, што было ў даліне Швінтарога на месцы будучай Вільні; паводле легенды, ён быў бацькам Ліздзейкі, што прадказаў заснаванне Вільні. А.Прахаска меркаваў, што К. сярэдневяковых аўтараў быў таксама вярхоўным суддзёю, у кожнага прускага племені быў свой К. Іншыя гісторыкі адмаўлялі рэальнасць існавання К. (А.Брукнер, Г.Лаўмянскі) або падкрэслівалі яго выключную ролю ў рэлігійным і грамадскім жыцці (У.М.Тапароў). З пач. 19 ст. вядомы фальсіфікаваны акт вял. князя Альгерда, якім ён нібыта перадаў судовыя функцыі К. ў ВКЛ мясц. харужым.

*Літ.*: Prochaska A. Czy istniał Krywe na Litwie // Kwartalnik historyczny. 1904. R.18; Топоров В.Н. Прусский язык: Словарь. K—L. М., 1984. С. 196—205; Rowell S.C. Lithuania ascending: A pagan empire within East-Central Europe, 1295—1345. Cambridge, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**крывічы**, аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён, што жылі ў басейне верхняга Дняпра, Дзвіны, Волгі, на Пд ад Чудскага воз. Упершыню ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 859, апошні раз у рус. летапісах названы пад 1162 як насельніцтва Полацкага княства. Назва «К.» выкарыстоўвалася і пазней. Пётр з Дусбурга ў «Хроніцы зямлі Прускай» паведамляе, што ў 1314 маршал Тэўтонскага ордэна Генрых узначаліў напад на крывіцкую зямлю (terra Criwicze), у час якога разбурыў Навагародак. Відаць, да крыжакоў назва «К.» трапіла праз балтамоўнае насельніцтва, якое здаўна межавала з К. У латышскай мове ад назвы «К.» ўтвораны этнонім для абазначэння рускіх.

**Крыгсайсен** (Kriegseisen) Войцех (н. 8.5.1955, г. Слупск Паморскага ваяв., Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1997). Скончыў Варшаўскі ун-т (1978). Працаваў у Ін-це гісторыі Польскай АН, ад'юнкт (1987—97), дацэнт (з 1997), намеснік дырэктара (1995—99). З 1999 праф. Варшаўскага ун-та. З 2000 гал. рэдактар час. «Kwartalnik historyczny» («Гістарычны штоквартальнік»). Працы па палітычнай культуры і канфесіянальных адносінах у Рэчы Паспалітай у 17—18 ст. на еўрапейскім фоне.

*Тв.*: Sejmiki Rzeczypospolitej szlacheckiej w XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1991; Diariusz peterburskiej podróży Jana i Piotra Sapiehów z 1726 r. Warszawa, 1993; Sejm Rzeczypospolitej szlacheckiej (do 1763 roku): Geneza i kryzys władzy ustawodawczej. Warszawa, 1995; Ewangelicy polscy i litewscy w epoce saskiej (1696—1763): Sytuacja prawna, organizacja i stosunki międzywyznaniowe. Warszawa, 1996; Źródła do historii Rzeczypospolitej szlacheckiej w Narodowym Archiwum Historycznym Białorusi w Mińsku // Kwartalnik historyczny. 1998. № 4; Miłosierdzie czy opieka społeczna? Działalność opiekuńcza w Jednocie Ewangelicko-Reformowanej Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVIII wieku // Charitas: Miłosierdzie i opieka społeczna w ideologii, normach postępowania i praktyce społeczności wyznaniowych w Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Warszawa, 1999; Dobra słuckie wojewody wileńskiego Karola Stanisława Radziwiłła «Panie Kochanku» w 1767 r. // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 2000. T. 11; Likwidacja świątyni ewangelickiej w Lubeczu: Przyczynek do dziejów Kościoła Ewangelicko-Reformowanego w Wielkim Księstwie Litewskim w pierwszej połowie XVIII wieku // Kulturų sankirtos. Vilnius, 2000.

**крыжак**, у Рэчы Паспалітай пашыраная назва патагона — талера іспанскіх Нідэрландаў 17 ст. з выявай андрэеўскага крыжа ў выглядзе скрыжаваных паліц з аднаго боку і шматдольнага іспанскага герба з другога. Меў






Да арт. **Крыжак**. Філіп IV. Брусель. Талер (патагон). 1654.

лігатурную масу 28,1 г, проба 875 праміле.

*Іван Сінчук.*

**крыжакі**, удзельнікі *крыжовых паходаў* і члены рыцарска-манаскіх ордэнаў. У бел. пісьмовых крыніцах тэрмін вядомы з 16 ст., упершыню — у перакладзе «Хронікі» М.*Бельскага*, дзе так названы ўдзельнікі крыжовага паходу на Іерусалім. У бел. перакладзе «Хронікі» М.*Стрыйкоўскага* К. названы рыцары *Інфлянцкага ордэна* і *Нямецкага ордэна*.

**Крыжаніч** (Križanić) Юрый (каля 1618, г. Біхач, Боснія—2.9.1683), дзеяч слав. культуры, каталіцкі царк. дзеяч. Д-р багаслоўя (1642). З харвацкага шляхецкага роду. Вучыўся ў Заграбскай каталіцкай семінарыі, Венскім калегіуме, Балонскай венгера-харвацкай калоніі, Калегіуме св. Афанасія ў Рыме. У 1641 прапанаваў папскай Кангрэгацыі прапаганды веры план падначалення Рыму правасл. царквы ў Расіі і ўвядзення там зах.-еўрапейскай сістэмы адукацыі. У 1642 атрымаў сан місіянера, служыў прыходскім святаром у Харватыі. З 1646 падначалены смаленскага біскупа П.Парчэўскага, у 1647 разам з ім прыбыў у Смаленск. Там перайшоў да уніяцкага епіскапа А.Квашніна-Залатога, потым хатні святар С.Галынскага ў Чарэі. У 1647 у складзе пасольства Рэчы Паспалітай наведаў Маскву. У 1650—51 як перакладчык удзельнічаў у пасольстве Свяшчэннай Рымскай імперыі ў Стамбул. У 1659 праз Украіну прыехаў у Пуціўль на рас. мяжы, назваўся сербам Юрыем Іванавічам Белiным (Білішам) і прыняты ў Маскве на службу ў Прыказ Вял. палаца. Прэтэндаваў на ролю царскага дарадчыка, прыдворнага гісторыка і бібліятэкара. Прапаноўваў напісаць абвяржэнне на погляды, быццам Расія — тыранія (каб схіліць украінцаў пад рас. падданства), перакласці на рус. мову зах.-еўрапейскія кнігі, выдаць славянскую граматыку і Біблію. Яму было даручана толькі скласці граматыку. У працы «Обjясньенjе Виводно о писмѣ Словѣнскомъ» (1660) рус. мову падзяляў на 3 часткі: рус. размоўную (велікарускую), беларускую (укр.-бел. пісьмовую) і царкоўнаславянскую. У 1660 у Маскве сустракаўся з Сімяонам Полацкім і высока адзываўся аб ім. Западозраны ў палітычнай нядобранадзейнасці, у 1661 высланы ў Табольск, дзе напісаў некалькі кніг. У працы «Граматично изказанjе объ рускомъ jезику» (1661) намагаўся распрацаваць штучную агульнаславянскую мову на падставе рус. лексікі і харвацкай граматыкі. Трактат «Палітыка» (1663) змяшчаў парады манарху, як разумна кіраваць народам. У ім К. выказваўся за самаўладдзе і падначаленне славянскага свету Расіі. У працы «Тлумачэнне гістарычных прароцтваў» (1674) прапаноўваў унію правасл. і каталіцкай цэркваў пад вяршэнствам рымскага папы, аб'яднанне палякаў і рускіх у адзінай дзяржаве з наступным далучэннем да яе астатніх славян для барацьбы з Асманскай імперыяй. У 1676 вернуты са ссылкі, у 1678 пакінуў Расію. Знаходзіўся ў даміканскім шпіталі ў Друі, потым у Вільні ўступіў у даміканскі ордэн (манаскае імя Аўгусцін). У 1682 выехаў у Рым для справаздачы. Па дарозе залічаны капеланам у войска Рэчы Паспалітай, якое накіроўвалася вызваляць Вену ад турэцкай аблогі, дзе і загінуў. Аўтар прац па тэалогіі, філасофіі, палітыцы, мовазнаўстве, геаграфіі, гісторыі, якія з-за павярхоўнасці не набылі шырокай вядомасці. Палітычныя планы К. вызначаліся авантурнасцю і няжыццяздольнасцю. Яго панславісцкія ідэі прапагандаваліся ў рас. навуцы 19—20 ст.

*Тв.*: Собр. соч. Вып. 1—3. М., 1891—92; Политика. М., 1965.

*Літ.*: Маркевич А. Юрий Крижанич и его литературная деятельность. Варшава, 1876; Епифанов П.П. Происки Ватикана в России и Юрий Крижанич // Вопр. истории. 1953. № 10; Пушкарев Л.Н. Юрий Крижанич: Очерк жизни и творчества. М., 1984; Заборовский Л.В. Юрий Крижанич о Речи Посполитой: (Проблемы «вольнобесия») // Славистические исследования: Доклады к XI Международному съезду славистов. М., 1992.

**крыжацкія хронікі**, гл. *Прускія хронікі*, *Інфлянцкія хронікі*.

**крыжовыя паходы**, агульная назва ваенна-палітычных кампаній, якія праводзіліся еўрапейскімі феадаламі ў 11—15 ст. пад рэлігійнымі лозунгамі з санкцыі папскага прастола. У вузкім сэнсе — серыя такіх паходаў на Блізкі Усход у 1096—1270. Прынята адрозніваць 8 К.п. Тэалагічна-прававой асно-




Да арт. **Крыжовыя паходы.** Я.Вісліцкі. «Пруская вайна». Кракаў. 1516. Тытульны ліст.

вай паходаў сталі хрысціянскія ідэі паломніцтва і «святой вайны» з «няверынымі». Удзельнікі К.п. нашывалі на плашчы крыж з чырвонага сукна, таму іх называлі *крыжакамі*. Ва Усх. Прыбалтыцы папамі толькі ў 1217—65 было абвешчана больш за 100 К.п. З 1147 нямецкія рыцары з благаслаўлення папы пачалі наступ на палабскіх славян, з 1155 шведы — на фінаў, з апошняй трэці 12 ст. датчане — на эстаў. У 1186 з пабудовай нямецкім місіянерам Мейнардам у Ікескюлі (Ніжняе Падзвінне) касцёла пачалося хрышчэнне ліваў. Яно суправаджалася захопамі зямель і запрыгоньваннем мясцовага. насельніцтва, выклікала сутыкненні крыжакоў з Герцыке і Кукенойсам — васальнымі княствамі Полацкай зямлі. У 1202 заснаваны Лівонскі ордэн (гл. ў арт. *Інфлянцкі ордэн*), які пасля поўнага разгрому яго літоўцамі і земгаламі ў Шаўлінскай бітве 1236 зліўся з *Нямецкім ордэнам*. У 1235 да апошняга далучылася большая частка рыцараў Дабжынскага ордэна, а тая частка, што захавала самастойнасць, была разбіта Данілам Галіцкім у *Дарагічынскай бітве 1238*. Буйныя бітвы рус. і літ. князёў з крыжакамі адбыліся на Чудскім воз. (1242), каля воз. Дурбе (гл. *Бітва на Дурбе 1260*), на р. Стрэва (гл. *Бітва на Стрэве 1346*). Стратэгічныя планы прыбалтыйскіх крыжакоў прадугледжвалі захоп тэр. сучасных Польшчы,



Літвы, Беларусі, Украіны, Малдовы, паўн.-зах. Расіі. З канца 13 ст. да 1410 яны здзейснілі больш за 140 нападаў на Літву і Беларусь (гл. *Паходы Нямецкага ордэна на Беларусь*). У адказ бел. і літ. атрады зрабілі больш за 60 рэйдаў на крыжацкую тэрыторыю. З канца 14 ст. асн. аб'ектам крыжацкай агрэсіі стала Жамойць. Нягледзячы на часовыя ўступкі гэтай тэр. ордэну (гл. *Салінскі дагавор 1398*, *Рацёнжскі дагавор 1404*) ВКЛ удалося захаваць Жамойць за сабой (*Мельнскі дагавор 1422*). ВКЛ і Польшча неаднаразова (1356, 1415, 1454) прапаноўвалі перанесці дзейнасць крыжакоў у Паўн. Прычарнамор'е з мэтай абароны хрысціянскага свету ад татараў і туркаў, але гэтыя прапановы адхіляліся. З хрышчэннем Літвы (1387) і Жамойці (1413) зніклі фармальныя падставы для вядзення К.п. у Прыбалтыцы. Афіцыйна яны спынены 9.9.1403, калі папа Баніфацый IX забараніў нямецкаму ордэну нападаць на ВКЛ і Польшчу, але іх фактычным працягам былі *Вялікая вайна 1409—11* і Трынаццацігадовая вайна 1454—66. Вырашальнай у спыненні К.п. у Прыбалтыцы была *Грунвальдская бітва 1410*. У выніку К.п. нямецкімі рыцарамі былі зняволены лівы, эсты, куршы, латгалы, часткова земгалы і селы, знішчаны або асіміляваны прусы, яцвягі, палабскія славяне. Разам з тым К.п. аб'ектыўна спрыялі кансалідацыі рознаэтнічнага і разнавернага насельніцтва Літвы і Беларусі ў адзіную дзяржаву — ВКЛ, уключэнню апошняй у арбіту зах.-еўрапейскай цывілізацыі, запазычанню ёю некаторых норм і форм грамадскага жыцця. З мэтай супольнай барацьбы супраць крыжакоў Польшча і ВКЛ заключылі *Крэўскую унію 1385*, што мела вырашальнае значэнне для гіст. лёсу народаў гэтых дзяржаў.

*Літ.*: Pakarklis P. Kryžiuočių valstybes santvarkos bruožai. Kaunas, 1948; Runciman S. A history of the Crusades. Vol. 1—3. Cambridge. 1951—54; Lietuvių karas su kryžiuočiais. Vilnius, 1964; Urban W. The Baltic Crusade. Chicago, 1975; Шаскольский И.П. Борьба Руси против крестоносной агрессии на берегах Балтики в XII—XIII вв. Л., 1978; Christiansen E. The Northern Crusades: The Baltic and the Catholic Frontier, 1100—1525. London, 1980; Белы А. Пад крыжом Святога Георгія // Падарожнік 1996. № 2; Матузова В.И., Назарова Е.Л. Крестоносцы и Русь. Конец XII в.—1270 г.: Тексты. Перевод. Комментарий. М., 2002.

***Алесь Белы.***

**крызіс аграрны**, стан сельскай гаспадаркі, які характарызаваўся парушэннем стабільнасці развіцця і недавытворчасцю с.-г. прадукцыі ў выніку разбуральных войнаў: казацка-сял. вайны 1648—51, вайны Рас. дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайны 1700—21.

Найб. глыбокім быў К.а. 2-й пал. 17 ст. Становішча бел. зямель стала прадметам спец. разгляду на сойме 1661 і характарызавалася наступным чынам: Ашмянскі і Браслаўскі пав. «ўшчэнт разбураны ворагам», Гарадзенскі «ператвораны ў руіны і частка яго спалена», Слонімскі «амаль дашчэнту спалены і разрабаваны непрыяцелем», Менскае, Полацкае, Мсціслаўскае ваяв. «цалкам спустошаны маскоўскім непрыяцелем», Берасцейскае ў «большай сваёй частцы ператворана ў папялішча і поўнасцю разбурана». Асн. прычынамі эканам. крызісу былі ваен. дзеянні, масавы гвалтоўны вываз насельніцтва з тэр. Беларусі ў межы Рас. дзяржавы, падаткі, якія збіраліся на войска, ваен. рэквізіцыі, рабаўніцтва і свавольства вайскоўцаў. Знішчэнне прадукцыйнага патэнцыялу на вёсцы было блізкім да катастрафічнага: у сярэднім насельніцтва ВКЛ у гэты час скарацілася на 53%, пуставала каля 70% зямель, лютавалі голад, хваробы і эпідэміі. Сяляне не мелі магчымасці весці гаспадарку, неабходную для простага ўзнаўлення сям'і, і не маглі выплачваць феад. рэнту і дзярж. падаткі. Шляхі выхаду з крызісу былі рознымі ў розных па велічыні і відах уласнасці маёнтках. Яны залежалі ад геаграфічнага размяшчэння ўладання, ступені яго разбурэння, якасці глебы, аддаленасці ад рынкаў збыту і інш. Для вываду з крызісу буйных дзярж. уладанняў (сталовых эканомій) дзяржава прапанавала цэлую сістэму мерапрыемстваў, якая ўключала ліквідацыю фальваркаў і перавод сялян на чынш (ачыншаванне), дазвол апрацоўваць пустыя землі на палегчаных умовах («за 3-і сноп», «у наезд» і інш.), увядзенне слабод (поўнае або частковае вызваленне сялян ад павіннасцей на тэрмін ад 5 да 15 гадоў). Такая сістэма льгот не распаўсюджвалася на староствы і дзяржавы, у якіх шлях аднаўлення гаспадаркі вызначаў сам трымальнік, што належала іх да прыватнаўласніцкіх маёнткаў. У магнацкіх вотчынах сяляне часта пераводзіліся на чынш пры распаўсюджванні розных форм прыёмнага землекарыстання, а ў маёнтках сярэдняй і дробнай шляхты выхад з К.а. ажыццяўляўся праз актыўнае аднаўленне фальваркаў. Дзякуючы сістэме прапанаваных ільгот сельская гаспадарка ВКЛ да пач. 18 ст. дасягнула даваеннага ўзроўню, але амаль адразу ізноў апынулася ў стане К.а. пач. 18 ст., выкліканага наступствамі Паўн. вайны 1700—21. Колькасць насельніцтва зменшылася больш чым на 30% і ў запусценні апынулася каля 40% ворнай зямлі. Для выхаду з крызісу выкарыстоўвалася методыка папярэдняга перыяду. Аднак К.а. быў больш працяглым, і адбудова гаспадаркі завяршылася толькі ў сярэдзіне 18 ст. У гаспадарчай гісторыі ВКЛ перыяд з сярэдзіны 17 да сярэдзіны 18 ст. характарызуецца як «страчанае стагоддзе». Калі ў гэты час у перадавых краінах Еўропы адбываўся працэс хуткага накаплення капіталу, а ў 1760-я г. ў Англіі пачаўся прамысловы пераварот, у ВКЛ улады двойчы вымушаны былі ўзнімаць з руін гаспадарку, разбураную войнамі, якія штучна перарвалі натуральны працэс эканам. развіцця.

*Літ.:* Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII — XVIII в.). Мн., 1975; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI — XVIII стст. Мн., 1992; Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Мн., 1997; Эканамічная гісторыя Беларусі. / Пад рэд. В.І.Галубовіча. Мн., 1999; Кітурка І. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця. Гродна, 2003;. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3. Мн., 2004.

***Ірына Кітурка.***

**Крымскае ханства**, феадальная дзяржава ў Паўночным Прычарнамор'і ў 1428—1783. Займала тэр. Крымскага паўвострава (акрамя паўд.-ўсх. часткі, якая кіравалася непасрэдна Асманскай імперыяй), частку прычарнаморскага стэпу ад вусця Дняпра да вусця Дона і Кубані, узбярэжжа да Грузіі. Пл. да 26 тыс. км$^2$. Нас. 180—300 тыс. чал. (у асн. татары, у паўд. частцы таксама італьянцы, грэкі, армяне, караімы, яўрэі, туркі, французы, на Пн ад Перакопскага перашыйка нагайцы). Да сярэдзі-



Да арт. **Крымскае ханства**. Ханскі палац у Бахчысараі.

ны 15 ст. тэр. К.х. належала ханам *Залатой Арды*. Заснавальнікам Крымскага юрта (удзела) лічаць Арам-Цімура, які атрымаў яго ад свайго дзядзькі хана Менгу-Цімура ў 2-й пал. 13 ст. У канцы 13 ст. военачальнік Нагай намагаўся заснаваць новую ардынскую дзяржаву з цэнтрам у Крыме. Да 15 ст. Крымскі юрт узначальваў намеснік залатаардынскага хана. Яму падпарадкоўваўся аглан — гал. начальнік аб'яднанага войска ў час набегаў, туман — начальнік 10-тысячнага войска. Сфарміраваліся 4 асн. саслоўі: дваранскае, духоўнае, народ і нявольнікі (рабы). Сярод дваранства вылучаліся ўрадавая і радавая групы, якія кіравалі асн. справамі Крымскага юрта. Духоўнае саслоўе ўзнікла ў 13 ст. з прыняццем ісламу, на чале яго стаяў муфтэй. Народ (татары і інш.) быў свабодным, нявольнікамі былі ваеннапалонныя або купленыя, пераважна ў рус. землях. У сувязі з аслабленнем і распадам Залатой Арды ў сярэдзіне 15 ст. ў Крыме ўсталявалася дынастыя *Гірэяў*. Першы крымскі хан Хаджы-Гірэй падтрымліваў добрыя адносіны з вял. князем літоўскім і каралём польскім Казімірам IV Ягелончыкам, вял. князямі маскоўскімі Васілём II і Іванам III. Пры ім сталіца К.х. перанесена з Кыркіча ў Бахчысарай. У 1466 ханам стаў Менглі-Гірэй. Яго замацаванню на троне садзейнічалі туркі, якія пасля завявання Візантыі асадзілі ў 1475 генуэзскія крэпасці ў Крыме. З гэтага часу К.х. — васал Турцыі. У выніку перагавораў паміж турэцкім і крымскім бакамі вырашана, што турэцкі султан будзе прызначаць крымскіх ханаў з нашчадкаў Гірэяў, не будзе караць смерцю нікога з гэтага роду. Да Турцыі адышлі стратэгічныя крымскія пункты: Кафа, Гюзлеў, Балаклава, Керч. Турэцкі ўрад пільна сачыў, каб крымскія ханы не ўмацоўваліся на сваім пасадзе. Да 1757 на крымскім троне змяніліся 62 ханы, кожны з якіх панаваў у сярэднім 5 гадоў, больш за 20 панаванняў было ад некалькіх месяцаў да 2 гадоў. Многія ханы прызначаліся на пасад па 2—4 разы. За службу крымскім татарам турэцкі ўрад плаціў грошы. Крымскія войскі ўдзельнічалі ў войнах з Персіяй, Польшчай, ВКЛ, Маскоўскай дзяржавай, на Балканскім




Манеты **Крымскага ханства**. 16—18 ст.

п-ве, грэчаскіх астравах. У 1-й пал.— сярэдзіне 16 ст. К.х. часта выступала саюзнікам ВКЛ і Польшчы. У 1507 ажыццёўлены іх сумесны паход супраць Масквы, у 1521 Польшча падтрымала Крым у паходзе на Маскоўскую дзяржаву. Саюзы К.х. з ВКЛ і Польшчай супраць Масквы заключаліся ў 1507, 1512, 1532, 1535, 1540, 1542, 1559, яны перамяжоўваліся перыядамі варожасці. Саюзныя дагаворы К.х. з Рэччу Паспалітай заключаліся ў 1607 і 1623. У 1660 татары ўдзельнічалі ў кампаніі палякаў супраць рас. войска на Украіне, у 1663—64 — у няўдалым паходзе караля Яна II Казіміра ў Задняпроўе. У 15—17 ст. адбываліся шматлікія татарскія напады на Украіну, Беларусь, Польшчу. Першы набег татараў К.х. адбыўся ў 1474 на Чырвоную Русь і Падолле, у 1482 — на Кіеўшчыну. У 1494 татары разбілі войска ВКЛ каля Вішняўца, разам з туркамі ўдзельнічалі ў нападзе на Польшчу. Былі разбіты ў *Вішнявецкай бітве 1512*, але ў 1519 разграмілі палякаў пад Сокалам, пасля пацярпелі паражэнне ад войска ВКЛ у *бітве на Альшаніцы 1527*. Набегі татараў на Падолле, Чырвоную Русь і Валынь адбыліся ў 1549 і 1589. У 1618 татары разбілі польск. войска пад Арынінам, у 1626 нанеслі вял. паражэнне пад Белай Царквой. Няўдачай скончыўся іх паход на Украіну ў 1661—62. Яны ўдзельнічалі ў польска-турэцкай вайне 1672, у 1675 Ян III Сабескі разбіў татараў пад Львовам. У 1683 яны ўдзельнічалі ў баях пад Венай. У 1695 татары напалі на Львоў, апошняя бітва татарскіх і польскіх войск адбылася пад Падгайцамі ў 1698. На Беларусь татары рабілі набегі ў канцы 15—1-й пал. 16 ст. (гл. *Татарскія напады*), буйнейшай ваен. падзеяй была *Клецкая бітва 1506*. Адносіны К.х. з Маскоўскай дзяржавай былі вельмі складаныя. У 1517 і 1541 крымскія татары здзейснілі паходы на Маскоўскую дзяржаву. У 1552 рас. войска авалодала Крымам, але ў 1555 татары разбілі маскоўскія войскі пад Тулай. У 1559 рас. армія пад камандаваннем Д.Ф.Адашава ажыццявіла паход у Крым, а татары на чале з ханам Дэўлет-Гірэем у 1571 захапілі і спалілі Маскву. Скончыліся няўдачай паход Дэўлет-Гірэя на Маскву ў 1572, бой 1587 на р. Ака, паход 1591 Газі-Гірэя II на Маскву. У 1592 татары спустошылі паўд. раёны

Расіі. У 1593 паміж К.х. і Расіяй заключаны мірны дагавор, які быў парушаны ў 1607, і ваенныя падзеі адбываліся да 1617, калі было заключана новае пагадненне. У 1632 ваен. дзеянні паміж Крымам і Расіяй аднавіліся. Па загадзе турэцкага султана татары ўдзельнічалі ў няўдалай аблозе Азова 1637—41, а ў 1645 зрабілі паход на Расію. У 1646—47 Расія і Рэч Паспалітая сумесна дзейнічалі супраць К.х. У 1687 і 1689 рас. войска пад камандаваннем В.В.Галіцына ажыццявіла паход на Крым. У 1695 і 1696 крымскія татары ўдзельнічалі ў абароне Азова ад войска Пятра І, у 1711 — у баях за Малдову. У 1736, 1737 і 1738 адбыліся паходы рас. арміі ў Крым. У 1770 туркі і татары разбіты на р. Ларга войскам П.А.Румянцава. У 1771 армія В.М.Далгарукага зруйнавала ўсе гарады Крыма, загінула больш за 33 тыс. жыхароў. Пасля гэтага крымскі курултай выбраў ханам Шагін-Гірэя, які абвясціў незалежнасць К.х. ад Турцыі. Паводле Кучук-Кайнарджыйскага трактата 1774 паміж Турцыяй і Расіяй султан адмовіўся ад правоў на К.х. У 1776, 1778 і 1783 Расія ўводзіла ў Крым войскі для «навядзення парадку». У лют. 1783 Шагін-Гірэй пад прымусам адрокся ад прастола і перадаў К.х. імператрыцы Кацярыне ІІ.

*Літ.*: Дубровин Н.Ф. Присоединение Крыма к России. Т. 1—4. СПб., 1885—89; Смирнов В.Д. Крымское ханство под верховенством Оттоманской Порты до начала XVIII в. СПб., 1887; Я г о ж. Крымское ханство под верховенством Оттоманской Порты в XVIII в. Одесса, 1889; Греков Б.Д., Якубовский А.Ю. Золотая Орда и ее падение. М.; Л., 1950; Надинский П.Н. Очерки по истории Крыма. Ч. 1—4. Симферополь, 1951—67; Кузнецов А.Б. Дипломатическая борьба России за безопасность южных границ (первая половина XVI в.). Мн., 1986; Санин Г.А. Отношения России и Украины с Крымским ханством в середине XVII в. М., 1987; Podhorodecki L. Chanat Krymski i jego stosunki z Polską w XV—XVIII w. Warszawa, 1987; Крым: прошлое и настоящее. М., 1988; Возгрин В.Е. Исторические судьбы крымских татар. М., 1992.

***Ібрагім Канапацкі.***

**крыўда**, юрыдычны тэрмін у ВКЛ, які абазначаў маральныя і матэрыяльныя страты, пагрозу жыццю і здароўю, іншую шкоду асобе, прычыненую ў выніку чыіх-небудзь наўмысных проціпраўных дзеянняў, знявагу яе інтарэсаў, чалавечай годнасці. Характар і памер кожнай К. вызначаўся Статутамі ВКЛ у залежнасці ад пэўных яе акалічнасцей, паходжання, грамадскага і службовага становішча пакрыўджанага боку. Гэта ўплывала на ступень адказнасці вінаватага і від пакарання. Напр., калі К. наносілася велікакняжацкаму ўраднiку ці ў двары вял. князя, адказнасць за яе была больш суровая. Па справах аб К., прычыненых залежным людзям, істцамі выступалі іх гаспадары. Асобна вылучаліся выпадкі, звязаныя з прычыненнем К. чужаземцу мясцовымі жыхарамі. Тэрмін судовага разгляду такіх спраў быў скарочаны. Агульная іскавая даўнасць па справах аб К. абмяжоўвалася 3-гадовым тэрмінам.

***Таісія Доўнар.***

**«Крыўда»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 50 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Жавускія, Лапы, Манюшкі, Сенніцкія, Сухадольскія, Хмары, Чарноцкія. У блакітным полі выява сярэбранай падковы, унутры якой залаты крыж, на падкове — другі крыж без аднаго канца; клейнод — над прылбіцай з шляхецкай каронай 3 страусавыя пёры. Існуюць варыянты герба з сярэбранымі крыжамі, з 5 страусавымі пёрамі ў клейнодзе і інш. З'явіўся, верагодна, у 16 ст. як варыянт герба *«Любіч»*.



Герб **«Крыўда»**.

**Крычаў** (цяпер горад, цэнтр Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Мсціслаўскім ваяв., на р. Сож. Упершыню ўпамінаецца ў статуце 1136 смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча («Кречют»). У 12—сярэдзіне 14 ст. ў Смаленскім княстве. З 1358 у складзе ВКЛ, уваходзіў у Мсціслаўскае княства, з канца 15 ст. ў Віленскім ваяв., пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у Мсціслаўскім ваяв. Першапачатковы цэнтр горада знаходзіўся на гарадзішчы «Гарадзец». У 2-й пал. 12—пач. 13 ст. пачаў будавацца новы цэнтр — «Замкавая гара» і рамесна-гандлёвы пасад на Спаскай гары. У 14 ст. пачалося асваенне гар. тэрыторыі ў міжрэччы ручаёў Забялышчынскі і Крычавец. У 1507 і 1508 К. намагаліся захапіць маскоўскія войскі. У 1514 К. прысягнуў на вернасць маскоўскаму вял. кн. Васілю ІІІ, але хутка вярнуўся пад уладу ВКЛ. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* горад у 1564 двойчы імкнуліся захапіць маскоўскія войскі. К. моцна пацярпеў ад нападу рас. войск у 1633. Для хутчэйшага адраджэння горада вял. князь літоўскі Уладзіслаў IV 23.8.1634 даў яму магдэбургскае права і герб: на чырвоным полі выява сярэбранага мяча і залатога крыжа. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* К. моцна пацярпеў, таму быў вызвалены ад дзярж. павіннасцяў, у т.л. ад пастояў вайсковых атрадаў. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад у 1654 вытрымаў 2-месячную аблогу рас. войск, але потым быў вымушаны здацца. Пасля вызвалення пастановай сойма 1661 вызвалены ад падаткаў. Паводле інвентара 1671 у К. 375 дымоў, у 1682 — 456 дымоў. У *Паўночную вайну 1700—21* горад моцна пацярпеў. У 1720 у К. налічвалася 233 жылыя дамы, у 1747 — 429 дымоў, у 1779 — 470 дымоў, каля 2800 жыхароў. У 17—18 ст. аснову планіровачнай кампазіцыі горада ствараў замак, да якога цягнуліся вуліцы, было 8



Герб **«Крычава»**. 1633.



правасл. царкваў, касцёл, сінагога, сфарміраваўся 2-і цэнтр горада — рыначная плошча. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў: гістарычна-археалагічны нарыс горада ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 2003.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Крычаўскае паўстанне 1743—44**, антыфеадальнае выступленне сялян Крычаўскага староства Г.Ф.*Радзівіла*. Было выклікана ўзмацненнем феад. прыгнёту, а таксама злоўжываннямі арандатараў староства братамі Іцкавічамі. За ўвесь час арэнды (1731—40) яны выбралі ў насельніцтва староства звыш устаноўленых нормаў каля 1 300 тыс. злотых, 120 тыс. пудоў пянькі, 39 вазоў мёду і інш. Сялян прымушалі бясплатна працаваць на будах. Вясной 1740 трымальнікам у староства было сцягнута некалькі соцень конных наймітаў для выбівання падаткаў. Жорсткасць арандатараў і іх прыслужнікаў прывяла ў самы разгар палявых работ да масавых уцёкаў сялян у лясы. У старастве склалася катастрафічнае для яго жыхароў становішча. У супліках (скаргах), якія бясконца ішлі да Радзівіла, земляробы і рамеснікі пісалі, што ім нічога не застаецца рабіць, «як узяцца за рукі і выступіць, каб абараніць сябе ад пагібелі». У пач. мая 1740 у старастве з'явіўся першы ўзброены атрад у некалькі соцень чалавек на чале з В.М.*Вашчылам*. Спачатку ўзбунтаваныя сяляне вырашылі спыніць працу на будах. У маі 1740 атрад Вашчылы зрабіў напад на буду каля в. Самацеевічы, разагнаў усіх буднікаў і службовых асоб. У адказ на гэта галава адміністрацыі ўладання Пшыленцкі сабраў і ўзброіў буднікаў, каля Хоцімска узяў у палон частку паўстанцаў. Атрад Вашчылы каля в. Калодзеск разагнаў атрад пушкароў Янкоўскага, які павінен быў правесці ў вёсцы экзекуцыю. Пасля гэтага сял. хваляванні пашырыліся. Радзівілу даносілі, што на Крычаўшчыне «сапраўдная казаччына — немагчыма з'яўляцца ў вёсках, бо сяляне пагражаюць забойствам». У ліп. 1740 сял. хваляванні ператварыліся ў масавы нар. рух. Узброенае выступленне адбылося ў Лучыцкім войтаўстве, але было хутка падаўлена конным атрадам Пшыленцкага. Пасля гэтага ён з адміністрацыяй староства, слугамі і атрадам конных копыскіх зямян 17 ліп. прыехаў у мяст. Міхалёва. На наступны дзень яго выбіў атрад Вашчылы з некалькіх соцень узброеных стрэльбамі, дзідамі і косамі сялян. Гэта так напалохала княжацкую адміністрацыю ў старастве, што тая больш не спрабавала самастойна выступіць супраць непакорных сялян.

Арандатары Крычаўскага староства, калі зразумелі, што сял. рух набірае моц, уцяклі. Некаторыя, што спрабавалі пакінуць староства ў час хвалянняў, былі затрыманы і пакараны. Іх маёмасць была канфіскавана прыгоннымі. Тыя ж арандатары, якія не чынілі крыўды насельніцтву, працягвалі гаспадарыць. На працягу 4 гадоў на значнай тэр. староства ўладу трымаў просты люд. Многія пытанні кіравання стараствам Вашчыла вырашаў са сваімі паплечнікамі. Яны здавалі ў арэнду, як і раней, прамысловыя прадпрыемствы і корчмы. Новых арандатараў шукалі сярод гараджан, дробнай шляхты, заможных сялян. Кіраўнікі паўстання абмяжоўвалі эксплуатацыю сялян арандатарамі. Былі прадугледжаны меры супраць ліхвярства, што раней шырока практыкавалася ва ўладанні. Аднак гэтыя захады былі накіраваны не супраць грамадска-палітычнай сістэмы, што стварала ўмовы для эксплуатацыі, а супраць яе асобных носьбітаў. Сяляне акуратна па старыне працягвалі выплачваць Радзівілу ўсе падаткі. Грошы ад арэнды таксама перадаваліся гаспадару.

Калі сял. рух пачаў пашырацца і колькасць паўстанцаў дасягнула 2 тыс., Радзівіл адчуў, што траціць кантроль над сітуацыяй і ўладу ў старастве. Каб задушыць паўстанне, ён накіраваў на Крычаўшчыну войска са сваёй слуцкай рэзідэнцыі. 15.1.1744 некалькі соцень жаўнераў разам з гарматамі і некалькі соцень казацкай конніцы ўвайшлі ў Крычаў. Кіраўнікі сял. руху прынялі рашэнне даць бой карнікам, пакуль ім на дапамогу не падаспелі ўзброеныя гарматамі конныя атрады з Себежа і Невеля. 18.1.1744 горад быў атакаваны паўстанцамі. Радзівілаўскае войска без асаблівых страт адбіла атаку, а потым адкінула паўстанцаў ад Крычава за р. Сож. Вашчыла месцам дыслакацыі сваіх сіл зрабіў в. Царковішча. З паплечнікамі (Іван Карпач, Стэсь Бачко, Васіль Вецер і інш.) Вашчыла выпрацаваў план наступных баявых аперацый. Паўстанцы, якіх налічвалася некалькі тысяч, вырашылі ў другі раз атакаваць Крычаў, захапіць яго, блакіраваць замак і прымусіць княжацкае войска здацца. Пачаць наступленне планавалася 26.1.1744. Пра такія намеры даззналіся карнікі. Атрымаўшы да таго часу падмацаванне ў гарматах і жывой сіле, кіраўніцтва радзівілаўскага войска вырашыла першым нанесці ўдар па паўстанцах. У ноч на 26.1.1744 радзівілаўскія злучэнні рушылі ў напрамку Царковішча і на досвітку напалі на лагер паўстанцаў. Тыя не змаглі арганізаваць хоць якую-небудзь абарону. Адзінкавыя групы паўстанцаў адыходзілі да лесу, каля 200 сялян загінула на полі бою, 176 трапілі ў палон. Камандуючы радзівілаўскім войскам адразу загадаў 30 паўстанцаў павесіць, яшчэ 30 пасадзіць жывымі на калы і падвесіць за рэбры на круках. Уся маёмасць актыўных удзельнікаў паўстання канфіскоўвалася. Па сутнасці вёскі Крычаўскага староства былі аддадзены жаўнерам на разрабаванне ў якасці ўзнагароды. Пасля прыбыцця ў лют. 1744 у Крычаў гаспадара ўладання Радзівіла адбыўся суд над кіраўнікамі паўстання. 16 з іх былі прыгавораны да смяротнага пакарання. Вашчыла пасля паражэння пад Царковішчам здолеў уцячы ў Расію. Вынікам паўстання стала паслабленне феад. прыгнёту ў старастве, цяжкія работы на будах былі заменены грашовым паборам, быў зняты шэраг абмежаванняў на сял. гандаль, адменена здача староства ў арэнду.

*Літ.*: Lech M.J. Milicje Radziwiłłów jako oręż feudałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki. Białystok, 1962. T. 3; Мялешка В.І., Лойка П.А. Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988; Іх жа. І ўзняўся люд просты. Мн., 1992.

***Павел Лойка.***

**Крычаўская воласць**, адм.-тэр. і гаспадарчая адзінка з цэнтрам у *Крычаве* ў 12—18 ст. Упершыню ўпамінаецца ў 1136 пад назвай «Кречют». У 12—15 ст. уваходзіла ў *Мсціслаўскае княства* Смаленскай зямлі, а потым ВКЛ. Тэр. воласці ахоплівала басейн Сажа ад р. Белая Натапа да р. Волчас, міжрэчча Сажа і Беседзі, а на У даходзіла да вытокаў Іпуці. У 14—15 ст.

тэр. воласці пашырана на У і ахапіла мерыдыянальнае цячэнне р. Іпуць. У канцы 15 ст. К.в. вылучылася ў самастойную адм.-тэр. адзінку, якая знаходзілася ў дзярж. уласнасці. У 1529 да яе далучана *Лучыцкая воласць*, у такім выглядзе К.в. праіснавала да 18 ст. На працягу 15—16 ст. у выніку вылучэння з яе складу шэрагу дробных прыватных маёнткаў воласць набыла шматкoвы выгляд. З 16 ст. тэрмін «К.в.» («Крычаўскае стараства») адносіўся толькі да дзярж. уладанняў, а адносна прыватных адзначалася, што тыя знаходзяцца ў Крычаўскім пав. (Крычаўскім тракце). У 1560 налічвалася 45 дзярж. вёсак і 34 прыватнаўласніцкія. З 16 ст. К.в. валодалі на ўмовах закладу, якія фактычна не адрозніваліся ад прыватнага ўладання, буйныя феадалы. У выніку войнаў 1-й пал. 16 ст. частка воласці адышла да Масквы. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 К.в. увайшла ў склад *Мсціслаўскага ваяводства*. З 2-й пал. 17 ст. ў воласці ўпамінаюцца войтаўствы Лучыцкае (Забычанскае), Дамамерыцкае, Мілаславіцкае (Углянскае), Палявое. На ўсх. землях Лучыцкага ў пач. 18 ст. арганізавана Бярозкаўскае (Хоцімскае) войтаўства. У воласці адбылося *Крычаўскае паўстанне 1743—44*. У Крычаўскім старастве ў сярэдзіне 18 ст. быў 1 горад (Крычаў), 5 мястэчак (Міхалаў, Ганна, Радзівілаў, Геранімаў, Студзянец) і каля 130 вёсак і слабод. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) К.в. у складзе Рас. імперыі. З-за адмовы крычаўскага старасты Е.А.Мнішка прысягнуць на вернасць імператрыцы Кацярыне II у 1776 К.в. перададзена Р.А.Пацёмкіну, пасля чаго канчаткова ператварылася ў прыватную латыфундыю — Крычаўскае графства.

Наменікі (старасты) крычаўскія: А.І.Дашковіч (1501—03), П.Епімахавіч (1503—04?), Я.Я.Забярэзінскі (1507), В.І.Ашушыхін (1508—09), Ц.І.Капуста (1511), Ю.Неміровіч (1514), В.С.Жылінскі (1517—29), В.Б.Чыж (1530—34, 1536), А.Неміраў (1535), А.Б.Шалуха (1544—63), К.А.Шалуха (1566—76), М.Служка (1576—78), Б.І.Саламярэцкі (1580—1602), Ф.Б.Лукомскі (1602—20?), Б.Б.Саламярэцкі (1620?—1625?), К.Весялоўскі (1625—34?), С.Пац (?—1640), яго ўдава Ганна з Рудамінаў-Дусяцкіх (1640—42), М.С.Пац (1642—70), М.К.Радзівіл (1670—80), К.С.Радзівіл (1680—1719), Ганна Катажына з Сангушкаў Радзівіл (1692—1746), Г.Ф.Радзівіл (1746—59), Е.А.Мнішак (1760—75).

*Літ.*: М я ц е л ь с к і А.А. Воласць Крычава ў XII—XVI стст.: тэрыторыя, адміністрацыйна-гаспадарчы падзел, паселішчы // Гіст.-археал. зб. Мн., 2000. № 15; Я г о ж. Лучыцкая воласць у XV—XVIII стст. // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2000. № 4; Я г о ж. Фарміраванне мястэчак Крычаўскага староства // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Я г о ж. Старадаўні Крычаў: Гіст.-археал. нарыс горада ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 2003.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Крычынскі** Лявон Канстанцінавіч (25.9.1887, Вільня—11.11.1939?), гісторык, выдавец, дзеяч татарскага культурна-нацыянальнага руху. З роду *Крычынскіх*. Скончыў юрыд. факультэт Пецярбургскага ун-та, дзе з 1907 быў сакратаром студэнцкага Гуртка польскіх татараў. У 1916—17 сакратар Саюза татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны ў Петраградзе, з 1917 старшыня Петраградскага мусульманскага клуба. Дырэктар канцылярыі ўрадаў Крымскай Рэспублікі (1918) і Азербайджана (1919—20). У 1910—30-я г. жыў у Польшчы, займаў судовыя пасады, разам з братам Альгердам узначальваў рух за нац. адраджэнне літ. татараў. У 1927—29 старшыня грамадскага камітэта па выданні «Гербоўніка татарскіх сем'яў у Польшчы» С.*Дзядулевіча*. Арганізатар татарскага музея ў Вільні (1929; разгромлены ў час 2-й сусв. вайны). Сакратар, з 1938 старшыня Цэнтр. Рады культ.-асветнага саюза татараў Польскай Рэспублікі. Падрыхтаваў і апублікаваў 2 бібліяграфічныя паказальнікі па гісторыі татараў. Выдавец часопісаў «Przegląd islamski» («Ісламскі агляд», Варшава, з 1930) і «Życie tatarskie» («Татарскае жыццё», Вільня, з 1934). У 1930—39 гал. рэдактар і сталы аўтар «Татарскага штогодніка». У канцы 1930-х г. суддзя акруговага суда ў Гдыні. Расстраляны гітлераўцамі; бібліятэка і архіў К. загінулі.

*Тв.*: Библиографические материалы по истории татар Польши, Литвы, Белоруссии и Украины. Пг., 1917; Bibliografja do historii Tatarów polskich. Zamość, 1935.

*Літ.*: L.Kryczyński: w 25-lecie działalności społecznej i literackiej // Przegląd islamski. 1937. № 1—3; Leon Kryczyński jako redaktor «Rocznika tatarskiego» w latach 1930—1939 // Życie muzulmanskie. 1988. № 8.

*Станіслаў Думін.*

**Крычынскі** Станіслаў Браніслававіч (3.5.1911, г. Новы Сонч, Польшча—1.11.1941), гісторык, этнограф, арыенталіст. Са збяднелай каталіцкай галіны татарскага княжацкага роду *Крычынскіх*. Вучыўся ва ун-тах Кракава, Львова і Варшавы. У 1930-я г. супрацоўнік «Татарскага штогодніка» і інш. татарскіх выданняў. Аўтар класічнай працы «Літоўскія татары» (1938), навук. і навук.-папулярных публікацый, у т.л. біяграфій выдатных літ. татараў для «Польскага слоўніка біяграфічнага».

*Тв.*: Generał Józef Bielak, 1741—1794 // Rocznik tatarski. Wilno, 1932. T. 1; Początki rodu książąt Glińskich // Prace historyczne w 30-lecie działalności profesorskiej Stanisława Zakrzewskiego. Lwów, 1934; Bej barski: Szkic z dziejow Tatarów polskich w XVII w. // Rocznik tatarski. Zamość, 1935. T. 2; Materiały do historii pułków tatarskich w Polsce (1777—1791) // Там жа; Tatarzy litewskie: Proba monografii historyczno-etnograficznej. Warszawa, 1938 (Rocznik tatarski. T. 3).

*Літ.*: T y s z k i e w i c z J. Stanisław Kryczyński i jego «Kronika wojenna Tatarów litewskich» // Przegląd humanistyczny. 1984. № 2.

*Станіслаў Думін.*

**Крычынскія**, татарскі княжацкі род гербаў «Радван» і «Радван» зменены. Родавая мянушка Мурза Найманскі (Найман-Мурза). У іх уласным радаводзе і ў большасці генеалагічных прац паказаны нашчадкамі першапачатковых уладальнікаў маёнтка Крычын у Аршанскім пав. (гл. *Канграты*). Часам дадавалі да прозвішча мянушку Аляшкевіч (Алішкевіч), узводзячы сябе да татарскага кандрацкага (мерашлянскага) харужага князя Мартузы Аляшкевіча. На самай справе К. — галіна князёў *Найманаў-Пятровічаў*. Продак К. князь Абрагім Асанавіч Кадышэвіч (?—каля 1617), харужы татарскі віленскі (найманскі), які ў 2-й пал. 16 ст. набыў частку Крычына ў Аляшкевіча. Быў жанаты з хрысціянкай, шляхцянкай Ягенкай (Нетай) Карчэўскай, меў 6 сыноў. Прозвішча К. канчаткова прынялі ўнукі Абрагіма Асанавіча. Акрамя Крычына (страчаны да 18 ст.) К. валодалі родавымі маёнткамі пад Крэвам у Ашмянскім пав. — Даўбучышкамі, Паніззем і інш. Род даказаў дваранства з княжац-

кім тытулам і гербам «Радван» у Віленскай губ. ў 1819. Шмат якія з К. служылі ў афіцэрскіх і генеральскіх чынах у войску ВКЛ і Рас. імперыі. Найб. вядомыя:

Ян Абрагімавіч (?—каля 1650), сын Абрагіма Асанавіча Кадышэвіча. Служыў у каралеўскай надворнай казацкай харугве, 12.3.1633 атрымаў званне маршалка татарскага найманскага Віленскага ваяв., 22.12.1646 саступіў маршалкоўства брату Геляшу Абрагімавічу. 1.4.1636 атрымаў новазаснаваную пасаду харужага татарскага дарагабужскага северскага, а таксама землі ў Дарагабужскім пав. Смаленскага ваяв. пасля татараў, што перайшлі на бок Расіі ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34. Яму падпарадкоўваліся татары, якім былі падараваны землі з абавязкам ваеннай службы пры Дарагабужскім замку.

Аляксандр (?—13.11.1673), ротмістр. З пачатку паўстання Б.Хмяльніцкага (1648) камандаваў татарскімі харугвамі каронных войск на Украіне, удзельнічаў у бітвах супраць рас. войск. У час вайны з Турцыяй 1672—73 узбунтаваў частку татарскіх харугваў, якія шмат гадоў не атрымлівалі жалавання, і перайшоў з імі на султанскую службу. Быў прызначаны беем захопленай туркамі крэпасці Бар, але ў хуткім часе быў абвінавачаны супольнікамі ў здрадзе і забіты.

Станіслаў Браніслававіч, гл. *Крычынскі* С.Б.

*Літ.*: Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 163—181; Kryczyński S. Bej barski // Rocznik tatarski. Zamość, 1935. T. 2; Думін С.В. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991. T. 20.

***Станіслаў Думін.***

**Крычэўскі** Міхайла [у каталіцтве Станіслаў; ?, каля г. Берасце—3.8.1649], казацкі военачальнік, удзельнік народна-вызваленчай і антыфеадальнай вайны 1648—51, палкоўнік кіеўскі (1648—49). З дробнага бел. шляхецкага роду, які ў канцы 16—пач. 17 ст. перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва. У 1620-я г. служыў у каронным войску. У 1627 удзельнічаў у вайне са Швецыяй. З 1643 палкоўнік казацкага рэестравага войска. У 1647 садзейнічаў уцёкам Б.Хмяльніцкага з турмы ў Крылове ў Запарожскую Сеч. Пасля бітвы




М.**Крычэўскі**. Пасмяротны партрэт.

пад Жоўтымі Водамі (5—6.5.1648) паздрадніцку забраны ў палон крымскімі татарамі. Хмяльніцкі, які стаў у гэты час гетманам Украіны, выкупіў К. за 4 тыс. талераў (12 тыс. польскіх злотых), і ён актыўна ўключыўся ў вызваленчую вайну ўкр. народа, перайшоў у праваслаўе і змяніў імя на Міхайла. Каб не дапусціць летам 1649 заходу войск ВКЛ у тыл сваёй арміі з Пн, Хмяльніцкі накіраваў шматлікія казацкія загоны (атрады) пад камандаваннем К. на Беларусь насустрач праціўніку. Да 15 тыс. казакоў далучылася амаль столькі ж сялян-паўстанцаў Беларусі. У ходзе *Лоеўскай бітвы 1649* войска К. было разбіта, а сам ён, цяжкапаранены, знойдзены на полі бою і дастаўлены гетману польнаму ВКЛ Я.Радзівілу, які разлічваў атрымаць ад К. звесткі пра ваен. планы Хмяльніцкага. Але К. не выдаў таямніцы і памёр ад ран на 3-і дзень пасля бітвы.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła... Wilno; Witebsk, 1859; Z dziejów Ukrainy: Księga pamiętkowa ku czci Włodzimierza Antonowicza, Paulina Święcickiego i Tadeusza Rylskiego. Kijów, 1912; Документи Богдана Хмельницького, 1648—1657. Київ, 1961.

***Васіль Мялешка.***

**Крышкоўскі** Лаўрэнцій, дзеяч рэфармацыйнага руху, гуманіст, пісьменнік 2-й пал. 16 ст. У 1550-я г. прыхільнік вучэння чэшскіх братоў у Вял. Польшчы. У 1558 у друкарні г. Шаматулы (Польшча) выдаў кнігу «Размова чатырох братоў закону хрысціянскага» («O prawdziwym i gruntownym używaniu zbawienia w zaspokojonym człowieka sumieniu: Rozmowa czterech braci zakonu Chrystusowego»). З 1561 кальвінісцкі прапаведнік у Нясвіжы. У 1562 у *Нясвіжскай друкарні* разам з С.*Будным* і М.*Кавячынскім* выдаў на бел. мове «Катэхізіс», «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Каля 1563 перайшоў на пазіцыі антытрынітарызму, пазней падтрымліваў рэлігійныя і сац. ідэі анабаптызму. Пры дапамозе Буднага пераклаў і выдаў на польскай мове «Гутаркі святога Юсціна філосафа» («Świentego Justyna, filozofa i męczennika, rozmowa z Tryfonem Żydem, do Marka Pompejusza napisana», Нясвіж, 1564). У сваіх пропаведзях выступаў з крытыкай прыгонніцтва як ганебнай формы феад. грамадства, адстойваў прынцып верацярпімасці, прапагандаваў грамадска карысную працу. Паводле ацэнкі К.Ф.Калайдовіча, Будны, Кавячынскі і К. «зрабілі беларускую мову кніжнай», а кнігу даступнай шырокаму колу чытачоў.

*Літ.*: Górski K. Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI w. Kraków, 1949; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая половина XVI—нач. XVII в.). Мн., 1970.

***Георгій Галенчанка.***

**Крышпіны-Кіршэнштэйны**, шляхецкі род уласнага герба. Вядомы з 15 ст. Паходзілі з Караляўца (Кёнігсберга). Першапачатковае прозвішча — Кіршэнштэйн. У сярэдзіне 16 ст. Крышпін Кіршэнштэйн набыў значную маёмасць у ВКЛ дзякуючы пасадзе ўрадніка каралеўскіх пушчаў, ад Жыгімонта Аўгуста атрымаў індыгенат і маёнтак Чырвоны Двор (Раўдань) каля Вялены і інш. Яго сын Крышпін (Крыштоф) Кіршэнштэйн стаў дваранінам Жыгімонта III, цівуном паюрскім. На Беларусі К.-К. валодалі маёнткамі Свіслач (Свіслач Крышпінаўская) у Ваўкавыскім пав., Самахвалавічы ў Менскім ваяв., і інш. Найб. вядомыя:

Геранім (каля 1622—пасля 5.12.1681), сын Крыштофа. Дваранін Уладзіслава IV, цівун паюрскі з 1639, маршалак ковенскі з 1656, кухмістр ВКЛ у 1658—63, вял. падскарбі ВКЛ у 1663—76. Як гусарскі ротмістр удзельнічаў у баях з казакамі. У *вайну Расіі з*

*Рэччу Паспалітай 1654—67* камандаваў паспалітым рушэннем Жамойці. Пад камандаваннем Я.Радзівіла ўдзельнічаў у баях за Магілёў у 1655. Выступаў супраць *Кейданскага дагавора 1655* і быў зняволены шведамі. Пасля ваяваў за вызваленне Жамойці ад шведаў.

Міхал Антоній (?—24.7. 1682), сын Гераніма. Цівун паюрскі, генерал артылерыі ў 1668—73, пісар польны ВКЛ з 1673.

Андрэй Казімір (?—1704), сын Гераніма. Пісар польны ВКЛ у 1683—98, ваявода віцебскі з 1695; староста шарашоўскі, пуньскі; пасол на соймы 1688, 1688—89, 1690, 1692—93 (яго маршалак), 1693. У 1691 удзельнічаў у паходзе супраць туркаў. Належаў да каралеўскай групоўкі ў ВКЛ, выступаў супраць Сапегаў, якія ў 1696 інспіравалі дэкрэт Трыбунала ВКЛ, быццам К.-К. не шляхта і не маюць правоў займаць годнасці і ўрады. Разам з братам Янам Геранімам узначальваў антысапегаўскі рух у Жамойці. Падтрымаў абранне на трон Аўгуста II. Аўтар кнігі «Паважнасць розуму, альбо Палітычная навука падчас злых намераў» («Stateczność umysłu, albo Nauka polityczna podczas złych umysłów», Варшава, 1769).

Марцін Міхал (Марцыян; ?—20.8.1700), сын Гераніма. Вучыўся ў Падуанскім ун-це. Служыў у войску ВКЛ, палкоўнік (1667). Падстолі ВКЛ у 1687—89, падчашы ВКЛ у 1689—97, кашталян троцкі з 1697; цівун віленскі з 1673, староста плунгянскі, аршанскі ў 1676—99; пасол на соймы 1667, 1692, 1696. Належаў да каралеўскай партыі, выступаў супраць групоўкі Сапегаў.

Ян Геранім (каля 1654—14.8. 1708), сын Гераніма. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі і Падуанскім ун-це. З 1678 святар. Віленскі канонік з 1681 і кусташ з 1685, рэферэндар духоўны ВКЛ у 1687—95, суфраган віленскі і тытулярны біскуп салоненскі з 1694, біскуп жамойцкі з 1695. Выступаў супраць групоўкі Сапегаў, у час *Паўночнай вайны 1700—21* перайшоў на бок шведаў.

Казімір Францішак (?—да 2.3.1731), сын Марціна Міхала. Староста плунгянскі з 1699, цівун гандынскі, харужы надворны ВКЛ у 1706—07; пасол на соймы 1699, 1701—02. У Паўн. вайну камандаваў дывізіяй. У 1706 перайшоў на бок шведаў і караля Станіслава Ляшчынскага, ад якога атрымаў урад стражніка ВКЛ (1708—09). Ваяваў супраць рас. войск на Беларусі. У 1709 эмігрыраваў у Прусію. У 1711 удзельнічаў у няўдалым паходзе на ВКЛ. Пасля выехаў у Бендэры. У 1713 прызначаны Ляшчынскім дыпламатычным прадстаўніком у Стамбуле, дзе займаўся падрыхтоўкай турэцка-татарскага паходу на Рэч Паспалітую. У 1714 у рангу ген.-лейтэнанта паступіў на службу ў шведскую армію. Падтрымліваў шырокія дыпламатычныя кантакты для шведска-рас. збліжэння. У 1721 пасля амністыі вярнуўся на радзіму. Пасол на сойм 1722.

Ежы Геранім (каля 1673—да 12.11.1736), сын Марціна Міхала. Вучыўся ў Падуанскім ун-це. Староста аршанскі з 1699, пісар польны ВКЛ у 1704—08. У Паўн. вайну камандаваў дывізіяй пад камандаваннем гетмана М.Вішнявецкага, тытулаваўся палкоўнікам і генеральным рэгіментарам войска ВКЛ. У 1707 перайшоў на бок шведаў і караля Станіслава Ляшчынскага, ад якога атрымаў урад падчашага ВКЛ (тытулаваўся так у 1708—13). Пасля паражэння шведаў пад Палтавай пераехаў у Прусію, дзе атрымаў ад Ляшчынскага ўрад польнага гетмана ВКЛ (ужываў тытул у 1710). Удзельнічаў у няўдалым паходзе 1711 на ВКЛ. Пасля пераехаў да Ляшчынскага ў Бендэры, дзе рыхтаваў татарскія напады на Рэч Паспалітую. У 1713 асеў у Вроцлаве, у 1721 вярнуўся на радзіму. Ген.-лейтэнант войска ВКЛ (1722), пасол на сойм 1722, кашталян жамойцкі з 1722.

***Валерый Пазднякоў.***

**Крэва** (цяпер вёска ў Смаргонскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав., на р. Краўлянка. Верагодныя пісьмовыя звесткі пра К. адносяцца да 14 ст. і звязаны з яго найб. значным элементам гіст. тапаграфіі і планіровачнай структуры — *Крэўскім замкам*, закладзеным вял. князем Гедзімінам на мяжы 13—14 ст. Існаванне замка і паселішча К. ў 1-й трэці 14 ст. пацвярджаецца матэрыяламі археал. раскопак і паданнямі, запісанымі ў 17 ст. (А.Каяловіч). З 1330-х г. цэнтр *Крэўскага княства*, уладанне Альгерда, а пасля Ягайлы. З 1413 г. К. ў складзе



Герб **Крэва**.

Віленскага ваяв., у сярэдзіне 15—1-й пал. 16 ст. цэнтр Крэўскага павета (дзяржавы, староства) на чале з намеснікам (дзяржаўцам, старастам). З К. звязаны важнейшыя падзеі гісторыі ВКЛ канца 14—1-й пал. 15 ст.: захоп улады Кейстутам, затым — Ягайлам, смерць Кейстута, барацьба Ягайлы і Вітаўта, заключэнне *Крэўскай уніі 1385*, барацьба за трон паміж Жыгімонтам Кейстутавічам і Свідрыгайлам, аднак крыніцы ўпамінаюць толькі Крэўскі замак, нічога не паведамляючы пра ўласна К. У пач. 16 ст. (не пазней за 1506) крымскія татары спалілі Крэўскі замак і «горад» К., які пасля гэтага ўжо не акрыяў. У 1518 С.Герберштэйн адзначаў, што К. — «горад з закінутым замкам». У 1551 К. плаціла ў велікакняжацкі скарб мінімальную суму падаткаў — 5 коп грошаў. На падставе названых у акце вял. князя Казіміра «данін з корчмаў крэўскіх» (1486) С.Александровіч залічвае К. ў разрад мястэчак. Паводле пацвярджальных грамат 1601, 1609 і 1633, выдадзеных Жыгімонтам III і Уладзіславам IV, жыхары К. карысталіся пэўнымі правамі гар. самакіравання (напр., правам выбіраць членаў магістрата), абмежаванымі, аднак, уладай старасты, які прызначаў галаву магістрата — войта. Спасылкі на гэтыя дакументы, а таксама на «першапачатковую» грамату 1559 (не захавалася), якая давала К. магдэбургскае права (хутчэй за ўсё, не поўнае), утрымліваюцца і ў дакументах канца 18—пач. 19 ст., звязаных з барацьбой жыхароў К. за свае правы. У канцы 18 ст. К. карысталася пячаткай з гербам «Ляліва». У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай*

*1654—67* К. спустошалася атрадамі Залатарэнкі, Чаркаскага і Хаванскага (1655, 1659 і інш.). У *Паўночную вайну 1700—21* разбурана войскамі Карла XII у 1708. Паводле інвентару 1738, да крэўскіх мяшчан адносілася крыху больш за 100 сем'яў (500—600 чал.). Згодна з інвентарам 1789, у К. былі рынак (52 дамы і 2 карчмы), вуліцы Зарэцкая (56 дамоў), Пяскоўская (9 дамоў), Татарская (13 дамоў), Багданаўская (56 дамоў), Барунская (5 дамоў), каля 1000—1100 жыхароў. Правасл. царква існавала ў К. ўжо ў 14 ст., яе заснаванне, відаць, было звязана з будаўніцтвам замка і датуецца мяжой 13—14 ст. Касцёл у К. закладзены ў 1387 Ягайлам у ліку першых 7 касцёлаў ВКЛ (паводле паведамлення Я.Длугаша). Гэтае датаванне прымае і Ахманскі, хаця і ўказвае, што першыя пэўныя звесткі пра гэты касцёл адносяцца да 1468. У 18 ст. ў К. было 6 (паводле інш. даных, 8) уніяцкіх цэркваў і 1 касцёл. Планіровачная структура К., мяркуючы па плане 1856, мела ў асноўным стыхійны характар. Забудова фарміравалася ўздоўж асн. дарог (лінейны тып планіроўкі). На Пн ад замка ляжала рыначная плошча, якая мела форму няправільнага чатырохвугольніка з бакамі каля 150 м. Элементы рэгулярнай планіроўкі цэнтр. часткі мястэчка, бясспрэчна, звязаны з наданнем К. магдэбургскага права ў 1559. Памеры плошчы (фактычна 3 × 3 шнуры) дастаткова пэўна ўказваюць на ўмяшанне велікакняжацкіх чыноўнікаў у перыяд правядзення валочнай памеры. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) К. ў складзе Рас. імперыі.



**Крэменец**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

*Літ.*: Супрун В.Р. Старажытнае Крэва // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 4; Дзярновіч А.І., Трусаў А.А., Чарняўскі І.М. Лёс Крэва. Мн., 1993; Дзярновіч А. Крэва: мястэчка і гісторыя // Адраджэнне. Мн., 1995. Вып. 1; Грыцкевіч А. Крэва: гісторыя і сучаснасць // Спадчына. 1999. № 4.

***Расціслаў Баравы.***

**Крэменец** (укр. Кременець, цяпер горад, цэнтр Крэменецкага р-на Цярнопальскай вобл., Украіна), горад, цэнтр павета Валынскага ваяв. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1226. З 1340 у складзе ВКЛ. Пасля вайны Польшчы з ВКЛ у 1349 перададзены Юрыю Нарымонтавічу. У канцы 14 ст. вялася адбудова замка. У 1438 горад атрымаў магдэбургскае права. У 15 — 1-й пал. 17 ст. К. значны рамесна-гандлёвы цэнтр Валыні. У 1497 і 1500 крымскія татары разбуралі горад. У 1-й пал. 16 ст. да замка было прыпісана 18 сёл і хутароў, пабудаваны касцёл. У 1536 Жыгімонт I падараваў К. сваёй жонцы. У 1563 у К. 737 будынкаў, мяшчане атрымалі дазвол на пасрэдніцкі гандаль. У 1572 адбываліся 2 кірмашы на год, тут размяшчаўся найвялікшы на Валыні склад солі. Пасля Люблінскай уніі 1569 у Польскім каралеўстве. У 1629 — 6,7 тыс. жыхароў, 1224 будынкі. У 1636 пабудаваны касцёл для францысканскага кляштара (пасля 1831 правасл.Мікалаеўскі сабор). У 1630 пабудавана уніяцкая царква, у 1633 правасл. Богаяўленскі манастыр, пры якім створана брацтва, існавалі шпіталь, школа, друкарня (дзейнічала да 1650). У 1635 тут працавала 6 цэхаў, якія аб'ядноўвалі 131 рамесніка. У 17—18 ст. найбуйнейшы на Валыні цэнтр па вырабе сукна. У 1637 кіеўскі мітрапаліт П.Магіла даў Крэменецкаму правасл. брацтву стаўрапігію. У 1648 захоплены казакамі Максіма Крываноса і разбураны. Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 К. застаўся ў складзе Рэчы Паспалітай. У 1701 крэменецкі староста Я.А.Вішнявецкі запрасіў у горад езуітаў: у 1702—12 дзейнічала місія, у 1712—50 — рэзідэнцыя, у 1750—73 — калегіум (школа граматыкі пачала працаваць у 1712, паэтыкі і рыторыкі — у 1713), у 1731—46 пабудаваны касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грыняевецкі.***



**Крэменец**. Малюнак Н.Орды.

**Крэўза** Леў (Лявон; 2-я пал. 16 ст., Падляшша—1639), дзеяч уніяцкай царквы, пісьменнік-палеміст. Манах, з 1617 архімандрыт Віленскага Троіцкага манастыра, з 1621 протаархімандрыт (генерал) ордэна базыльян, з 1623 архіепіскап смаленскі і чарнігаўскі. Удзельнік Львоўскага сабора 1629. У палемічным творы «Абарона царкоўнай еднасці, або Доказ, які сведчыць, чаму грэчаская царква павінна быць аб'яднана з лацінскай» (Вільня, 1617) даў звесткі пра кіеўскіх мітрапалітаў і выказаў думку, што многія з іх імкнулі-

ся да адзінства з Рымам. Аўтар «Абароны манастыра Св. Тройцы» (Вільня, 1702) і інш. Ідэі К. зрабілі ўплыў на наступныя пакаленні прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты уніяцкай царквы.

*Святлана Марозава.*

**Крэўскае княства**, удзельнае княства ў бас. Бярэзіны (нёманскай). Існавала ў 14 ст. Цэнтр — *Крэва*. Каля 1338 вял. князь Гедзімін аддаў К.к. свайму сыну Альгерду. Пазней належала сыну Альгерда Ягайлу. Відаць, ужо ў 14 ст. страціла значэнне ўдзела, пазней пераўтворана ў староства ў Віленскім ваяводстве. У навук. л-ры часам сцвярджаецца, што ў 1387—91 К.к. належала брату Ягайлы князю Вігунту (Аляксандру), на самай справе той валодаў Кернавам у Літве.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Очерки истории литовско-русского права. СПб., 1894. С. 39.

**Крэўская унія 1385**, дзяржаўны саюз паміж ВКЛ і Польшчай. Заключаны 14.8.1385 у Крэўскім замку. Акт К.у. — дакументальнае зацвярджэнне вял. князем літоўскім *Ягайлам* папярэдне прынятых абавязацельстваў перайсці ў каталіцтва і ахрысціць паводле лацінскага абраду ўсіх язычнікаў-літоўцаў, а таксама стварыць дзярж. саюз (унію) ВКЛ і Кароны Польскай. Акт зафіксаваў, што польскія паслы абяцалі Ягайлу ад імя сваёй дзяржавы аддаць у жонкі малалетнюю польскую каралеву *Ядвігу*, а з ёю і польскую карону. К.у. папярэднічалі перагаворы паміж абодвума бакамі, у т.л. і пасольства *Скіргайлы* (брата Ягайлы). Заключэнне уніі было аблегчана ўзмацненнем улады Ягайлы і яго прымірэннем з *Вітаўтам*, які вярнуўся з Прусіі і атрымаў ад Ягайлы ў якасці ўдзельнага княства Гародню і Падляшша. Акт К.у. падпісалі Ягайла, князі троцкі Скіргайла, мсціслаўскі *Лугвен*, ноўгарад-северскі *Карыбут*, Вітаўт. Агульнымі гал. фактарамі саюзу была барацьба абедзвюх дзяржаў з Тэўтонскім ордэнам, небяспека з боку якога ўзмацнілася і пагражала стратай зямель Польшчы і ВКЛ. У стварэнні саюзу былі зацікаўлены як літ. і бел. феадалы, так і польская шляхта (найперш малапольская), якая хацела спыніць вайсковыя канфлікты з ВКЛ з-за Валыні, а таксама каталіцкая царква, якая мірным шляхам атрымала магчымасць ахрысціць апошні язычніцкі народ у Еўропе. Абедзве дзяржавы аб'ядноўваў адзін манарх (праўда, ненадоўга), але кожная з іх мела сваю сістэму кіравання, праводзіла самастойную палітыку. Канчатковае зацвярджэнне уніі адбылося ў 1386. 11 студз. прадстаўнікі Польшчы ў Ваўкавыску перадалі Ягайлу акт аб перадвыбранні яго каралём польскім і аддачы яму ў жонкі Ядвігі. 2.2.1386 адбыўся з'езд польскай шляхты ў Любліне, дзе Ягайлу аднагалосна абралі каралём Польшчы. 12.2.1386 Ягайла прыбыў у Кракаў, праз 3 дні прыняў з братамі *Карыгайлам, Свідрыгайлам, Вігантам* і сваімі баярамі каталіцтва і атрымаў імя Уладзіслаў. Вітаўт з праваслаўя перайшоў у каталіцтва. 18.2.1386 Ягайла ажаніўся з Ядвігай, а 4.3.1386 каранаваны польскай каралеўскай каронай як Уладзіслаў II. У 1387 утворана каталіцкае Віленскае біскупства, пры ўдзеле Ягайлы ахрышчана літоўскае язычніцкае насельніцтва. Першыя вынікі К.у. былі дасягнуты, але ў 1390 Вітаўт аднавіў барацьбу за велікакняжацкі трон, якая скончылася кампрамісным *Востраўскім пагадненнем 1392*. Ягайла абвешчаны «вярхоўным князем» Літвы і Русі, а Вітаўт застаўся фактычным кіраўніком дзяржавы, вял. князем. Працягам К.у. была *Віленска-Радамская унія 1401*. Аддаленыя вынікі К.у. — гэта даволі трывалы дзярж. саюз (трымаўся на персанальнай уніі) ВКЛ і Польшчы на працягу 14—16 ст., да заключэння *Люблінскай уніі 1569*, якая стварыла ўжо федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, паступовае збліжэнне дзярж. інстытутаў ВКЛ і Польшчы, а таксама культ. збліжэнне вярхоў грамадства. Дзякуючы саюзу ўдалося ліквідаваць пагрозу з боку Тэўтонскага ордэна, перамагчы яго ў Грунвальдскай бітве 1410, адкрыць гандл. шляхі ў Зах. Еўропу. На ўсходзе ВКЛ з дапамогай Польшчы ўдалося стрымліваць нацiск з боку Маскоўскай дзяржавы. Адным з вынікаў уніі быў шырокі дыпламатычны выхад ВКЛ у Еўропу, а таксама культ. збліжэнне з інш. краінамі Еўропы. Іл. гл. ў т. 1, с. 10.

*Літ.*: Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932; Ochmański J. Historia Litwy. 2 wyd. Wrocław etc., 1982; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. 4 wyd. Warszawa, 1985; Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990; Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992; Бардах Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002; 1385 m. rugpjūčio 14 d. Krėvos aktas. Vilnius, 2002.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Крэўскі замак**, замак тыпу кастэль 14 ст. ў мяст. *Крэва* Ашмянскага пав. (цяпер вёска ў Смаргонскім р-не). Адна з першых мураваных кастэляў ВКЛ. Класічнай застаецца версія пра пабудову замка пасля 1338 і да 1345 вял. кн. *Альгердам* як сваёй уласнай рэзідэнцыі. Магчыма, будаўніцтва замка пачата яшчэ бацькам Альгерда вял. кн. *Гедзімінам*. Альгерд атрымаў Крэва ад Гедзіміна ў 1338. Тут у 1345 было заключана пагадненне паміж Альгердам і пасламі вял. кн. Кейстута пра падзел улады ў ВКЛ. Даціроўкі 1338—45 прытрымліваліся М.Ткачоў і Т.Поляк. У 1980—90-х г. атрымала развіццё версія пра пачатак будаўніцтва К.з. ў кан-



**Крэўскі замак**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.



цы 13 ст. (С.Абрамаўскас, А.Трусаў, І.Чарняўскі). Яна аргументуецца архаічнымі рысамі ніжніх зон муроўкі сцен, выкладзеных на глінянай рошчыне, што ў Балтыйскім рэгіёне датуецца 13 ст. Існуе меркаванне, што К.з., як і інш. кастэлі ВКЛ, пабудаваны пасля 1380 (А.Жалнеруса).

К.з. узведзены каля месца ўпадзення р. Шляхцянка ў Крэвянку. Каля чвэрці замкавай тэрыторыі (паўн. частка) знаходзілася на пясчанай дзюне, што ўзвышалася над балоцістым рачным поплавам. Размяшчэнне замка ў забалочанай нізіне мусіла перашкодзіць ужыванню тэхнікі ў час аблогі, хоць у далейшым гэта не дазваляла ўзводзіць новыя лініі абароны замка. К.з. у плане мае няправільную трапецыю (85 х 108,5 х 71,55 х 97,2 м). Таўшчыня сцен дасягала 2,5 м, вышыня 12—13 м. На вышыню прыблізна 4 м яны былі выкладзены з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне, вышэй ужывалася цэгла, пакладзеная ў тэхніцы балтыйскай муроўкі (2 лажкі — 1 тычок). Унутраная частка сцен выканана метадам забутоўкі. На фасадах замка ў выглядзе фрыза з цэглы быў зроблены шырокі атынкаваны і пабелены пас. Сцены завяршаліся баявой галерэяй. Брама знаходзілася ў паўн. сцяне. Праз кароткі тэрмін каля паўн.-зах. вугла замка звонку была пабудавана Княжацкая вежа-данжон вышынёй 25 м. Сцены вежы (17 х 18,65 м) не маюць перавязкі з мурамі замка і выступаюць за іх перыметр — гэтым самым забяспечвалі не толькі франтальны, але і фланкіруючы абстрэл подступаў да замка (дасягненне фартыфікацыі 2-й пал. 14 ст.). У ніжнім ярусе Княжацкай вежы знаходзілася вязніца, 2-і ярус выкарыстоўваўся для гасп. мэтаў, жылыя памяшканні знаходзіліся на 3-м і 4-м ярусах. Пра рэпрэзентатыўны характар вежы сведчаць таксама вял. гатычныя аконныя праёмы. У вежу можна было трапіць з баявой галерэі праз уваход, які знаходзіўся на ўзроўні 3-га яруса. Першапачатковыя перакрыцці паверхаў выконваліся з дошак на брусах, ад якіх у сценах захаваліся прамавугольныя адтуліны. На мяжы 1520—30-х г. у цэнтры вежы быў узведзены крыжападобны слуп, на які абапіраліся нервюрныя скляпенні, што перакрывалі памяшканні 2-га і вышэйшых паверхаў. Чарняўскі характарызуе Княжацкую вежу як прататып замкавага палаца. 2-я вежа, Малая, была збудавана ў паўд.-ўсх. унутраным куце замка, відаць, на мяжы 14—15 ст. Паводле інш. версіі, Малую вежу збудавалі адначасова з Княжацкай. Квадратная ў плане вежа мела 3 ці 4 ярусы. На падворку замка каля ўваходу археолагамі былі выяўлены рэшткі мураванага будынка грамадзянскага прызначэння, узведзенага ў 14 ст. Квадратная ў плане пабудова (каля 8 х 8 м) мела скляпенні. Тэхніка муроўкі сцен цалкам аналагічная замкавым. Мяркуецца, што пабудова прызначалася пад княжацкі палац. Паводле версіі А.Кушнярэвіча, пабудова ўзводзілася як вежа (бергфрыд), а потым была прыстасавана пад палац.

Падчас археалагічнага даследавання Княжацкай вежы знойдзена больш за 2 тыс. фрагментаў тынкоўкі з роспісам у тэхніцы all-secco (па сухой тынкоўцы). Вылучаюць 3 этапы аздаблення інтэр'ераў вежы роспісам: 1-я пал. 14 ст., пач. 15 ст., мяжа 17—18 ст. Найстаражытныя роспісы — таніраванне тынкоўкі чырвонымі вохрамі. Для роспісаў пач. 15 ст. характэрна ўжыванне дастаткова багатай колеравай гамы. На мяжы 17—18 ст. роспісы былі часткова перапісаны ў тэхніцы тэмпернага жывапісу. Тэхналогія крэўскіх роспісаў не характэрна для візантыйскай традыцыі, але мае значнае падабенства з прынцыпамі жывапісу зах.-еўрапейскага сярэдневякоўя.

Невядомы ніводны эпізод нападу на Крэва нямецкіх рыцараў. Гісторыя К.з. адметна важнымі паліт. падзеямі. Тут у 1381 знаходзіўся на выгнанні Ягайла, пазбаўлены трона ВКЛ сваім стрыем Кейстутам. У 1382 ужо Кейстут патрапіў у зняволенне ў К.з., і тут паводле загаду Ягайлы ён быў задушаны. У Крэве ў той жа час быў зняволены Вітаўт, але ён здолеў уратавацца. Тут быў падпісаны акт *Крэўскай уніі 1385*. У 1433 у час міжусобіцы К.з. узяў Свідрыгайла. Да 1470 замак адноўлены. У 1503—06 К.з. значна пацярпеў ад набегаў крымскіх татар. У выніку С.Герберштэйн у 1518 занатаваў: «Крэва — мястэчка з пакінутым замкам». У жн. 1519 К.з. узялі ў час глыбокага рэйду маскоўскія войскі. Паводле дакументаў пач. 17 ст. вядома, што крэўскія мяшчане вызваляліся ад вартавой службы ў замку. Археалагічна адзначаны разбурэнні ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У замку знаходзілася рэзідэнцыя крэўскага старасты, а таксама была збудавана драўляная ратуша. Найб. пацярпеў К.з. у час 1-й сусветнай вайны.

К.з., пачынаючы з 19 ст., прыцягваў увагу мастакоў: Н.Орды, Б.Тамашэвіча, Я.Драздовіча, Ф.Рушчыца і інш. Кансервацыя муроў замка праведзена ў 1929—30 польскімі спецыялістамі на чале са С.*Лорэнцам*. Сістэматычнае археалагічнае вывучэнне пачалося ў 1970 (Ткачоў), прадоўжылася ў 1985 (Трусаў, Ткачоў) і 1987—89 (Чарняўскі). У наш час праводзяцца працы па частковай кансервацыі руін замка. Дзейнічае Дабрачынны фонд «Крэўскі замак».

*Літ.*: Baliński M. Krewo, starożytny zamek w Litwe. Warszawa, 1842—43; Корева А. Развалины Кревского замка // Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. Ч. 2; Zahorski W. Zamek w Krewie // Ziemia. 1912. T. 3; Lorentz S. Konserwacja ruin zamkow na Wileńszczyznie i Nowogródczyźnie // Ochrona Zabytków Sztuki. 1930/31. Cz. 1, z. 1—4; Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мн., 1977; Яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Крэва // Страчаная спадчына. Мн., 1998; Яго ж. Замки Беларуси. Мн., 2002; Ткачев М.Л., Трусов О.А. Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. 9(1). История архитектуры. Вильнюс, 1988; Poklewski T. Rycina baszty w zbiorach ikonograficznych Muzeum Narodowego w Warszawie - Krewo, Krasiczyn czy Kojdanów? // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki. 1991. Z. 1; Дзярновіч А., Трусаў А., Чарняўскі I. Лёс Крэва. Мн., 1993; Дзярновіч А. Крэва: Мястэчка і гісторыя // Адраджэнне: Гіст. альманах. Мн., 1995. Вып. 1; Чарняўскі I., Цэйтліна М. Архітэктурна-мастацкія асаблівасці Крэўскага замка // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2001. Вып. 4; Крево.by: Общественно-ист. сайт (<http://www.krevo.by/>); Замки Беларуси (<http://zamki.fatal.ru/catalog/krevo_castle.html>).

*Алег Дзярновіч.*

**Крэцінга** (літ. Kretinga, цяпер горад, цэнтр Крэцінгскага р-на, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойці, на р. Акмяна. Вядома з 1253. У 1361 жамойты разбілі тут крыжацкае войска. З 1598 упамінаецца як мястэчка. З 1572 уласнасць Хадкевічаў. У 1602 вял. гетман ВКЛ Я.К.Хадкевіч запрасіў у



Пячатка **Крэцінгі**.

**Крэцінгскі кляштар бернардзінцаў**. Малюнак Н.Орды.



К. бернардзінцаў, збудаваў для іх драўляны касцёл, пасля заснаваў мураваны *Крэцінгскі кляштар бернардзінцаў*. 23.1.1609 ён даў К. магдэбургскае права і пераназваў у свой гонар Каральштатам (да 18 ст. выкарыстоўваліся абедзве назвы). Бернардзінцы з 1602 трымалі школу. Мястэчка мела герб з выявай Маці Божай з дзіцяткам Ісусам на руцэ, пазней — з выявай св. Казіміра. Пасля смерці Хадкевіча (1621) К. праз шлюбныя сувязі перайшла да Сапегаў, у 1745 — да Масальскіх. У 1776 Адукацыйная камісія адкрыла ў К. 6-класную школу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Kryževičius V. Kretingai 750 metų // Mokslas ir givenimas. 1990. № 11; Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai. T. 2. Kretinga, Škuodas, Šiauliai, Šventoji, Varniai, Veliuona, Viekšniai, Virbalis, Vladislavovas / Sudare A. Tyla ir D.Žygelis. Vilnius, 1997.

***Валерый Пазднякоў.***

**Крэцінгскі кляштар бернардзінцаў**. Заснаваны ў мяст. *Крэцінга* вял. гетманам ВКЛ Я.К.Хадкевічам у гонар перамогі над шведамі ў *Кірхгольмскай бітве 1605*. Пабудаваны ў 1610—17. Складаецца з касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі і св. Францыска Асізскага (асвячоны ў 1619) і жылога корпуса. Першапачатковa храм быў 1-нефавай готыка-рэнесансавай пабудовай з вежай па восі гал. фасада. Узведзены пад кіраўніцтвам кракаўскага дойліда Гаспара Аркона. У працэсе грунтоўнай перабудовы 1672 у стылі барока набыў базілікальную структуру. Да нашага часу захаваліся гатычныя стральчатыя вокны, гатычнае вырашэнне прасторы цэнтр. нефа, рэнесансавая аздоба нервюр крыжовых скляпенняў. У стылі рэнесансу выкананы драўляныя дзверы сакрыстыі, разныя гербы, арыгінальны амвон (яго срэбраныя скульптуры зніклі ў час Паўн. вайны) і арган на хорах (згарэў у 1941). У інтэр'еры захаваліся 7 паліхромных драўляных алтароў работы Я.Дакрачынскага, якія маюць рысы рэнесансу і барока. На арнаментаваных лавах выкананы 20 партрэтаў фундатараў. Цяпер касцёл уяўляе сабой велічных памераў базіліку, перакрытую зорчатымі і крыжовымі скляпеннямі. Да гал. фасада прымыкае 4-ярусная вежа чацверыковай формы, накрытая стромкім шпілепадобнай формы дахам. У куце, утвораным паўн. сцяной прэсбітэрыя і ўсх. сцяной асн. аб'ёму, зробле-



**Крэцінгскі кляштар бернардзінцаў.** Інтэр'ер касцёла. Алтар. 1710-я г.

на сакрыстыя. Паўн. фасад падзелены контрфорсамі на асобныя праслы, прарэзаныя вокнамі спічастай формы. У касцёле зберагаюцца партрэты 17—19 ст. у каваных металічных рамах, а ў яго сутарэннях — саркафагі Хадкевічаў. Жылы 2-павярховы корпус П-падобнай формы калідорнай сістэмы планіроўкі прымыкае з паўд. боку да касцёла. Першапачаткова ўсх. і зах. карпусы былі злучаны з касцёлам рэнесансавай галерэяй. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 133.

*Літ.*: Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1987. T. 1. P. 266—268.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Кубліцкі** Станіслаў (?, Віцебшчына—1808), пісьменнік. Удзельнік паўстання 1794. Выступаў за правядзенне грамадскіх рэформ, прадастаўленне правоў мяшчанству. Аўтар лібрэта оперы «Абарона Трамбоўлі» (1788), камедыі «Знік банкрут» (1780), драмы «Усё скончыцца перапалохам» (1780). У Гародні выдадзены яго зборнік «Баечкі і забаўкі прозай і вершам» (1785), дзе выразна выявіліся стылявыя рысы ракако. Перакладаў з рус. (Г.Дзяржавін, М.Ламаносаў), французскай і нямецкай моў.

***Адам Мальдзіс.***

**Кужанецкі** Марцін (11.11.1705, Мазовія—23.5.1769), дзеяч рымска-каталіцкай царквы, педагог. З 1722 езуіт, з 1734 святар. Выкладаў рыторыку ў езуіцкіх навучальных установах у Варшаве (1736—37) і Слуцку (1737—39), місіянер у Гарадзішчы Навагародскага ваяв. (1740—53) і Кабылцы пад Варшавай (1753—60), рэктар Нясвіжскага калегіума (1760—63, 1766—68), узначальваў Мазавецкую правінцыю езуітаў (1763—66). Аўтар гамілетыка-катэхізісных прац «Навукі з Евангелля на нядзелі і святы грэчаскай царквы, што знаходзіцца ў уніі з рымскім касцёлам» («Nauki z Ewangelii na niedziele i święta Kościoła Greckiego w Unii z Kościołem Rzymskim zostającego», Вільня, 1752), «Размовы капелана альбо тэолага» («Rozmowy kapelana albo teologa», Вільня, 1752), экзагетычнай працы «Выклад Пісання св. Старога і Новага Запавету» («Wykład Pisma św. Starego i Nowego Testamentu», Нясвіж, 1769).

***Валерый Пазднякоў.***

**Кукальнік** (Кукольник) Павел Васілевіч [24.6(5.7).1795, г. Замасць, Польшча—3(15).9.1884], расійскі пісьменнік, гісторык. Д-р права (1815). З укр. уніяцкай сям'і (у 1821 прыняў праваслаўе), якая ў 1804 пераехала ў Пецярбург. Брат пісьменніка Н.В.Кукальніка. У 1810—24 з перапынкамі служыў у розных міністэрствах. У 1815 у Полацкай акадэміі абараніў доктарскую дысертацыю «Пра ўплыў рымскага права на ўсерасійскае». Пераклаў з французскай мовы «Скарочаную ўсеагульную гісторыю» Л.Ф.Сегюра (т. 1—5, Пецярбург, 1818—20). У 1824—32 праф. кафедры ўсеагульнай гісторыі і статыстыкі Віленскага ун-та, пасля выкладаў усеагульную гісторыю ў Духоўнай акадэміі (1833—42) і каталіцкай епархіяльнай семінарыі (з 1844), рускую мову — у Медыка-хірургічнай акадэміі (1834—42), служыў чыноўнікам па гіст. і статыстычнай часці пры віленскім генерал-губернатару (1849—51). Адначасова ў 1829—41 і 1851—63 цэнзар, у 1863—65 старшыня Віленскага цэнзурнага камітэта. К. адрозніваў ліберальныя погляды, добразычлівае стаўленне да мясц. літаратараў, з ім падтрымлівалі цесныя кантакты У.Сыракомля, А.Э.Адынец, А.Г.Кіркор. У 1864—65 старшыня Віленскай археагр. камісіі. У сваіх гіст. працах, якія мелі ў асн. кампілятыўны і краязнаўчы характар, выказваў ідэі пра «літоўскую» самабытнасць, адмоўна ацэньваў сувязі ВКЛ з Польшчай і ролю каталіцтва ў краі, бо гэта, на яго думку, прыводзіла да прыгнятання праваслаўя, гвалту і кровапраліцця. Аўтар вершаў, празаічных твораў, а таксама мемуараў, апублікаваных у час. «Русский архив» (1873—74).

*Тв.*: История управления и законодательства Литвы // Памятная книжка Виленской губернии на 1853 год. Вильна, 1853; Обычаи, поверья и предрассудки литовцев // Черты из истории и жизни литовского народа. Вильна, 1854; Исторические воспоминания о Немане // Памятная книжка Виленской губернии на 1860 год. Вильно, 1860. Ч. 2; Путешествие по Замковой улице в Вильне // Виленский вестник. 1860. 4 янв.—1 апр.; Отрывок из поездки в Гродненскую губернию // Там жа. 16—23 сент.; Исторические заметки о Литве. Вильна, 1864; Исторические заметки о Северо-Западном крае с 1794 года (по 1860 г.) // Вестник Западной России. 1864. Т. 2, кн. 6, декабрь; 1867. Т. 1, кн. 1; Очерки старинного быта Литвы // Виленский вестник. 1865; Тое ж // Вестник Юго-Западной России. 1867; Историческое исследование о Западной России. СПб., 1865.

*Літ.*: Ш в е р у б о в и ч А.И. Братья Кукольники, Павел и Нестор: Очерк их жизни. Вильна, 1885; У л а щ и к Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

**Кулагін** Анатоль Мікалаевіч (н. 23.1.1947, г. Барысаў Мінскай вобл.), беларускі мастацтвазнавец, гісторык архітэктуры. Канд. мастацтвазнаўства (1986). Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1960). З 1970 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац. АН Беларусі. Працы па гісторыі і тэорыі архітэктуры і мастацтва Беларусі. Адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88; Дзярж. прэмія БССР 1990), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 2—3, 1988—89), кнігі «Страчаная спадчына» (1998).

*Тв.*: Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII—начало XIX в. Мн., 1981; Помнікі Слоніма. Мн., 1983 (разам з В.Б.Караткевіч); Дзержинщина: прошлое и настоящее. Мн., 1986 (разам з А.І.Валахановічам); Ambony rokokowe w kościołach na Bialorusi // Biuletyn historii sztuki. 1988. № 1—2; Архитектура и искусство рококо в Белоруссии: (В контексте общеевропейской культуры). Мн., 1989; Шэдэўры архітэктуры ракако: Гістарычна-архітэктурны нарыс. Мн., 1991; Адраджэнне готыкі. Мн., 1993; Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча: Пачатак XX стагоддзя. Мн., 2000 (з У.А.Герасімовічам); Эклектыка: Архітэктура Беларусі другой паловы XIX—пачатку XX стагоддзя. Мн., 2000; Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2000; Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001.

**Кулакоўскі** (К а л а к о ў с к і) Станіслаў (?—пасля 1612), паэт. Відаць, быў кальвіністам. Першы вядомы твор — паэма «Людскі век, альбо Кароткае апісанне чалавечага веку» («Wiek ludzki, albo Krótkie opisanie wieku człowieczego», Вільня?, 1584; філасофскія разважанні пра поры чалавечага жыцця). Кніга «Нябесны воз, альбо Элегія пра тры тэалагічныя і чатыры кардынальныя дабрадзейнасці» («Woz niebieski, albo Elegie o trzech cnotach teologicznych i czterech kardynalnych», Вільня, 1586) не захавалася. Тэалагічным праблемам прысвечаны творы «Пра сапраўднае шчасце і блаславенства» («O prawdziwey szczęśliwoś-

сі y błagosławieństwie», Вільня, 1593), «Пастанаўленне і ўнутранае жыццё» («Postanowienie y życie domowe», Кракаў, 1595), «Гадзіннік Ахасаў» («Zegar Achasów», Кракаў, 1612). Паэма «Катэмерынон Слуцкага княства з жаласлівым лямантам на дачасную смерць слаўнай памяці слуцкіх князёў Юрыя, Яна Сямёна і Аляксандра, апошніх дзедзічаў» («Cathemerinon Księstwa Słuckiego z żałobliwym lamentem na pośpieszną smierć sławnej pamięci książąt słuckich Jerzego, Jana Siemiona y Aleksandra, ostatnich dziedzicow», Вільня, 1593) — самы грандыёзны фунеральны твор у л-ры ВКЛ 16 ст. Натхненню для барацьбы з туркамі, адносіны з якімі абвастрыліся ў пач. 17 ст., прысвечана паэма «Вежа Давідава з усялякай арматурай для ўзбраення хрысціянскага ваяра» («Wieża Dawidowa ze wszelaka Armatura, ku przyzbroieniu boiownikowi Chrzesciańskiemu», не пазначаны месца і год выдання). Пераклаў са стараж.-грэчаскай мовы «Кнігу выбраных думак» Феагніда з Мегары («Wybranych zdań księga», Вільня, 1592).

*Літ.*: Кавалёў С. Станіслаў Кулакоўскі: паміж тэалогіяй і паэзіяй // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мн., 2001. Вып. 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**кулгрында** (літ. kūlgrinda, ад жамойцкага дыялектнага kūlis камень + grinda брук), брукаваная дарога праз балота, раку, возера. Аснова К. складалася з бязладна ўкладзеных палявых камянёў дыяметрам 50—80 см альбо скінутых у ваду пнёў, галля і камлёў ці ўяўляла сабой складаную канструкцыю з пакладзеных упоперак сасновых бярвён, на якія насыпаны пласт пяску. Верхні слой К. складаўся з роўна ўкладзеных камянёў дыяметрам 10—20 см. З бакоў умацоўвалася сасновымі палямі ці каменнымі клінамі і засцерагалася ад заносу глеем з дапамогай канавак. Даследчыкі вылучаюць таксама мядгрынды і жэмгрынды: першыя брукаваліся дрэвам, аснову другіх складала зямля, часам з камянямі ці бярвёнамі. Шырыня К. вагалася ад 1,5 да 6 м, даўжыня — ад 3—4 да некалькіх соцень метраў. З мэтай захавання таямніцы К. часта пракладваліся пад вадой і мелі звілісты абрыс. У асн. К. выкарыстоўваліся ў абарончых мэтах, вялі да гарадзішчаў і складалі частку іх фартыфікацыйнай сістэмы. Некаторыя мелі культавы характар і вялі да свяцілішчаў ці месцаў пахавання. К. вядомы ў Прусіі з 1 ст., у Літве — з 4 ст., іх будаўніцтва працягвалася да ранняга сярэдневякоўя. Найбольш К. вядома ў Жамойці, даследаваны К. каля населеных пунктаў Алкупіс і Бурбішкяй (Шыляльскі р-н), Абеляй (Укмергскі р-н), Кярнаве (Шырвінцкі р-н) і інш. К. вядомы ў Калінінградскай вобл. Расіі, у Латвіі, у Беларусі — на воз. Краснае на ПдЗ ад Полацка і паміж в. Наносы і Мядзелам на воз. Нарач. Нарачанская К., званая ў народзе Чортавай грэбляй і брукаваная шчыльна пакладзенымі камянямі, знаходзілася на глыбіні каля 125 см ад паверхні вады, узвышалася над дном возера прыкладна на 160 см і мела ў даўжыню каля 1 км; у шырыню забяспечвала прастору для праезду 4 запрэжаных коней адначасова.

*Літ.*: Живописная Россия. Т. 3. Литовское и Белорусское Полесье. М., 1882. С. 49—72; Baubonis Z. Kūlgrindų, medgrindų ir žemgrindų klausimu // Aktualūs kultūros paminklų tyrinėjimų uždaviniai. Vilnius, 1988; Каблоў С. Падводная археалогія на Беларусі // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996.

***Ягор Новікаў.***

**Кулеша** Ян Алаізій (18.6.1660, Падляшша—13.1.1706), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік-палеміст. Са шляхецкага роду герба «Слепаўрон». Скончыў Віленскую акадэмію (1690). З 1677 езуіт, з 1689 ксёндз. У 1681—84 вучыўся ў Полацку, у 1686—90 — у Вільні. У 1690—91 выкладаў красамоўства і грэчаскую мову ў Пінску, у 1691—92 — у Дарагічыне, у 1692—93 — у Пултуску, у 1694—95 у Полацку. У 1695—1703 місіянер у Бабруйску, Оршы і Мсціславе, праводзіў місіянерскую дзейнасць сярод праваслаўных, падарожнічаў па чарнігаўскай і северскай землях для прапаганды уніяцтва сярод рас. бежанцаў-старавераў, але беспаспяхова. Наведаў Расію, дзе вёў рэлігійныя дыспуты з правасл. духавенствам. Быў прыхільнікам прыняцця езуітамі ўсх. (правасл.) абраду для больш эфектыўнай прапаганды каталіцтва ў Рэчы Паспалітай і асабліва ў Расіі, аднак гэта не было дазволена рымскай курыяй. З 1704 выкладаў маральную тэалогію ў Віленскай акадэміі. Аўтар палемічнага твора «Вера праваслаўная» («Wiara prawosławna», Вільня, 1704; поўнае выданне — каля 1715), дзе імкнуўся зрабіць сінтэз веравучэнняў каталіцкай і правасл. цэркваў.

**Кулігоўскі** Мацвей Ігнацій (?—пасля 1699), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. Плябан бярозаўскі з 1675 і воўпенскі ў 1688—99, дэкан ваўкавыскі з 1688, архідыякан бакавенскі і протанатарыус апостальскі з 1694. Магчыма, выкладаў вызваленыя навукі і філасофію. Выдаў вершаваную кн. «Гук доблеснага Марса ў агульнай хацінскай экспедыцыі і атрыманай у 1673 годзе над туркамі перамогі» («Dźwiek Marsa walecznego w walnej ekspedycji chocimskiej i otrzymamego w roku 1673 nad Turkami zwycięstwa», Вільня, 1674), зборнік гербавых вершаў, аповесцей, анекдотаў «Смешны Дэмакрыт, альбо Смех хрысціянскага Дэмакрыта з гэтага света» («Demokryt śmieszny, albo Śmiech Demokryta chrześciańskiego z tego świata», Вільня, 1699). Пераклаў з лац. мовы і забяспечыў уласнымі дадаткамі кнігу «Індыйскі каралевіч у польскі строй прыбраны, альбо Гісторыя пра святога Іасафата, індыйскага каралевіча, і пра святога Варлаама, пустэльніка скіта Сенаар» (Królewic




М.І.**Кулігоўскі**. Індыйскі каралевіч. Кракаў. 1688. Прысвячэнне-рэбус Сапегам.



indyjski w polski strój przybrany, albo Historia o świętym Jozafacie królewicu indyjskim i o świętym Barlaamie pustelniku pustyniej Senaar nazwanej», Кракаў, 1688; адзін з варыянтаў *«Гісторыі пра Варлаама і Іасафата»*.) Пераклаў кнігу П.Бесэ «Плач хрысціянскага Геракліта альбо пакутуючага грэшніка» (Варшава, 1694).



**Кулікоўская бітва 1380**. Мініяцюра Ліцавога летапіснага зводу. 16 ст.

**Кулікоўская бітва 1380**. Адбылася 8.9.1380 на Куліковым полі каля р. Няпрадва (правы прыток Дона) паміж войскамі Залатой Арды і вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча (Данскога). Мэтай Арды ў паходзе 1380 на рус. землі было аднаўленне паліт. кантролю над Маскоўскай дзяржавай пасля паражэння татараў у 1378 ад Дзмітрыя Іванавіча на р. Вожа. Для гэтага ардынскі военачальнік Мамай (фактычна кіраўнік дзяржавы — часткі Залатой Арды на З ад Волгі) заключыў антымаскоўскі саюз з вял. князем літоўскім Ягайлам. У 1379—1-й пал. 1380 Мамай сабраў значнае войска (40—60 тыс. чал., у асн. лёгкая кавалерыя). Паход на Маскоўскае княства быў прызначаны на восень 1380, на 1 вер. запланавана сустрэча ардынскага і саюзнага войска ВКЛ на р. Ака. У жн. Дзмітрый Іванавіч даведаўся ад вял. князя разанскага Алега Іванавіча пра выступленне ардынцаў і разаслаў у саюзныя княствы ганцоў з просьбай аб дапамозе. Да яго прыбылі яраслаўскія, растоўскія, белазёрскія, мурамскія, ялецкія, мяшчэрскія княжацкія і гарадавыя дружыны (усяго каля 70 тыс. чал., у асн. конніца). Невял. войска паслаў Ноўгарад. У сярэдзіне жн. маскоўскія і саюзныя ім войскі рушылі да г. Каломна, дзе былі створаны паходныя палкі і прызначаны ваяводы. У адной з рэдакцый «Сказання пра Мамаева пабоішча» паведамляецца, што адным з камандзіраў палка правай рукі быў князь Глеб Друцкі (у інш. рэдакцыях Глеб Бранскі або Глеб Каргапольскі, асоба не высветлена). 26—27 жн. Дзмітрый Іванавіч пераправіў войска цераз Аку каля вусця Лапасні і рушыў да Дона. 4 вер. ва ўрочышчы Беразуй да яго далучыліся князь *Андрэй Альгердавіч* з атрадам палачан і пскавічоў і князь *Дзмітрый Альгердавіч* са сваёй дружынай. У ноч на 8 вер. маскоўскае войска пераправілася цераз Дон, выйшла на Кулікова поле паміж рэкамі Няпрадва і Смолка і стала ў баявы парадак. Паводле Наўгародскага 4-га летапісу (спіс Дуброўскага), рус. войска было падзелена на 6 палкоў: перадавы (тут знаходзіліся Альгердавічы), вялікі, правай рукі, левай рукі, старажавы і засадны. Паводле інш. крыніц, старажавога палка не было, а Дзмітрый Альгердавіч камандаваў часткай рэзерву. Бітва пачалася ў 11 гадзін лабавой атакай ардынцаў на пярэдні маскоўскі полк, які пад моцным націскам адступіў. Гал. ўдар Мамай скіраваў на цэнтр. пазіцыі, дзе стаялі палкі вялікі і левай рукі, паколькі атака на полк правай рукі была адбіта. Амаль усе ваяводы палка левай рукі загінулі, а сам ён падаўся назад да Няпрадвы. Прасоўванне ардынцаў некаторы час стрымліваў рэзерв пад камандаваннем Дзмітрыя Альгердавіча, але і ён быў разбіты. Зыход бітвы вырашыў засадны полк маскоўскага войска, якім камандавалі князь Уладзімір Андрэевіч Серпухаўскі і князь Дзмітрый Міхайлавіч *Баброк-Валынскі*, паколькі ў Мамая свежых сіл не засталося. Атака рэзерву з крайняй левай пазіцыі маскоўскага войска была нечаканай для ардынскай конніцы. Спачатку яна стрымлівала ўдар, потым падалася назад і ў ходзе адступлення адкінула ўласную пяхоту, што выклікала агульныя ўцёкі. Бітва скончылася ў 14 гадзін, але пагоня працягвалася да позняга вечара. Мамай з невял. рэшткамі войска ўцёк у свае ўладанні, дзе неўзабаве быў забіты. Войска Дзмітрыя Іванавіча страціла 30 тыс. чал. (у т.л. «30 паноў літоўскіх», відаць, з войск Альгердавічаў). Вял. князь разанскі Алег Іванавіч, якога Мамай прымусіў далучыцца да сябе, у бітве не ўдзельнічаў. Ягайла на бітву спазніўся, паводле рус. летапісаў, на дзень ці нават менш і пасля К.б. напаў толькі на наўгародскі атрад, які вяртаўся дахаты. Паводле нямецкіх хронік Дзетмара Любекскага і Ёгана Пазільге, ён адабраў у наўгародцаў іх долю трафеяў. К.б. значна паўплывала на рост аўтарытэту Маскоўскага княства, вызначыла яго першынство ў аб'яднанні рус. зямель. Бітва знайшла шырокае адлюстраванне ў тагачаснай л-ры. Ёй былі прысвечаны летапісныя «Аповесці пра Кулікоўскую бітву», «Сказанне пра Мамаева пабоішча», «Задоншчына». На думку некат. даследчыкаў, у 1386 у Полацку складзена летапісная аповесць, у якой шмат месца адведзена праслаўленню Андрэя і Дзмітрыя Альгердавічаў. «Сказанне пра Мамаева пабоішча» змяшчае шмат неверагодных фактаў пра К.б. Твор узвышае ролю Альгерда-

вічаў, якія нават раяць Дзмітрыю Іванавічу перайсці Дон і пачаць бітву, дапамагаюць яму размясціць войскі ў баявым парадку. Такі літаратурны прыём меў на мэце адцяніць антымаскоўскую дзейнасць іх бацькі Альгерда і брата Ягайлы.

*Літ.*: «Слово о полку Игореве» и памятники Куликовского цикла. М.; Л., 1966; Азбелев С.Н. Об устных источниках летописных текстов (на материале Куликовского цикла) // Летописи и хроники, 1976 г., 1980 г. М., 1976, 1981; Кирпичников А.Н. Куликовская битва. Л., 1980; Куликовская битва: Сб. статей. М., 1980; Сказания и повести о Куликовской битве. М., 1982; Jučas M. Kulikovo mūsis ir Lietuvos Didžioji Kunigaikstystė // Lietuvos istorijos metraštis, 1981 metai. Vilnius, 1982; Куликовская битва в истории и культуре нашей Родины. М., 1983; Куликово поле и ратные поля Европы: Прошлое и настоящее. Тула, 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Кульвец** Абрагам (каля 1510, в. Кульва каля Коўна—6.6.1545), асветнік, дзеяч Рэфармацыі ў ВКЛ. Паходзіў з літ. шляхецкага роду. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі (1528), дзе атрымаў ступень бакалаўра вольных мастацтваў, пасля ў Лювене. Да 1535 вярнуўся на радзіму і жыў у ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ А.Гаштольда. З 1536 вучыўся у Вітэнбергу і Лейпцыгу (слухаў там лекцыі М.Лютэра), пасля ў Сіене, дзе атрымаў ступень д-ра абодвух правоў (1539). У 1539 дзякуючы падтрымцы каралевы польскай і вял. княгіні літоўскай Боны заснаваў у Вільні прыватную школу з канвіктам (інтэрнатам), якая стала першым асяродкам лютэранства ў ВКЛ. У школе выкладаліся «сем вольных мастацтваў», вучылася да 60 юнакоў. Рэфармацыйныя погляды К. выказваў і ў пропаведзях у касцёле св. Ганны. Дзейнасць К. выклікала занепакоенасць каталіцкага духавенства. Біскуп віленскі Павел Гальшанскі дамогся ад вял. князя Жыгімонта Старога выдання загаду з патрабаваннем да К. з'явіцца перад касцельным судом. У 1542 К. пакінуў Вільню і пераехаў у Каралявец (Кёнігсберг), дзе герцаг *Альбрэхт* прызначыў яго сваім радцам і віцэ-рэктарам мясцовай школы. З 1544 К. выкладаў грэчаскую і старажяўрэйскую мовы ў новазаснаваным *Каралявецкім універсітэце*. Выдаў тэалагічную працу «Спавяданне веры Абрагама Кульвяца, напісанае да найяснейшай каралевы Польшчы» («Confessio fidei Abrahami Culvensis, scripta ad serenissimam reginam Poloniae», 1543). Паводле загаду герцага Альбрэхта пачаў працу па напісанні літ. катэхізіса, пераклаў на літ. мову некалькі гімнаў, якія ўвайшлі ў «Катэхізіс» М.*Мажвідаса* (1547). У пач. 1545 атрымаў дазвол вярнуцца ў Вільню, дзе неўзабаве памёр.

*Літ.*: Wotschke T. Abraham Culvensis // Altpreussische Monatsschrift. 1905. Bd. 42; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973.

**Кульчынскі** Ігнацій (1707, г. Гародня ці Уладзімір Валынскага ваяв.—9.1.1747), дзеяч уніяцкай царквы, гісторык. Д-р багасловя. Вучыўся ў базыльянскіх школах. У 1727—35 жыў у Рыме, быў генеральным пракуратарам базыльянскай кангрэгацыі, выдаў там шэраг твораў. У 1736—47 архімандрыт Барысаглебскага (Каложскага) манастыра ў Гародні і яго першы гісторык. На падставе дакументаў манастырскага архіва 15—18 ст. напісаў «Інвентар Гарадзенскага Каложскага базыльянскага манастыра» (1738) і «Хроніку ігуменаў, архімандрытаў, царкоўных старастаў і заступнікаў Гарадзенскага Каложскага манастыра» (1730-я г.; захаваліся ў рукапісах, упершыню надрукаваны ў 1870). Падрабязнае апісанне ў іх гэтага помніка стала каштоўнай крыніцай для наступных пакаленняў даследчыкаў Каложы. Вывучаў інш. бел. старажытнасці (Жыровіцкі Успенскі манастыр, крыж Ефрасінні Полацкай). Пісаў на лацінскай і польскай мовах, старабел. дакументы цытаваў на мове арыгінала. Яго гіст. і багаслоўскія працы выдаваліся прыжыццёва і пасмяротна ў Рыме, Вільні, Пачаеве, Супраслі. Аўтар першай грунтоўнай працы па гісторыі уніяцкай царквы — «Ідэал рускай царквы» («Specimen Ecclesiae Ruthenicae», Рым, 1773).

*Тв.*: Инвентарь Гроденского Коложского монастыря // Археографический сборник документов. Вильна, 1870. Т. 9.

*Літ.*: Каха初оўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX ст. Мн., 1984. С. 17, 98; Алексеев Л.В. Игнатий Кульчинский — первый исследователь белорусских древностей // Древности славян и Руси. М., 1988.

***Святлана Марозава.***

**Куля** (Kula) Вітальд (18.4.1916, Варшава—12.2.1988), польскі гісторык-эканаміст. Чл. Польскай АН (1986), д-р габілітаваны (1947), праф. звычайны (1963). Скончыў Варшаўскі ун-т і Вольны польскі ун-т. Пасля вайны выкладаў у Лодзінскім ун-це, Гал. школе планавання і статыстыкі, Варшаўскім ун-це. Адзін з заснавальнікаў Ін-та гісторыі Польскай АН, дзе працаваў з 1953. Удзельнічаў у арганізацыі першых сусв. кангрэсаў па гаспадарчай гісторыі, у 1968—70 прэзідэнт, потым ганаровы прэзідэнт Міжнар. таварыства гаспадарчай гісторыі, у 1974—83 віцэ-прэзідэнт Міжнар. камітэта метадалогіі гісторыі. Вывучаў праблемы эканам. ладу грамадства, выбару шляхоў развіцця, грамадскага прагрэсу, метадалогіі гіст. навукі. Канкрэтна-гіст. даследаванні К. прысвечаны аналізу эканам. і грамадскага ладу Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны ў 16—19 ст., працэсу генезісу капіталізму ў гэтых краінах. Увёў у навук. ўжытак вял. архіўны матэрыял па гісторыі мануфактур Рэчы Паспалітай, у т.л. Радзівілаў у Нясвіжы, гарадзенскіх мануфактур А.Тызенгаўза, жалезаробчай вытворчасці ў Рудзе пад Берасцем і інш.

*Тв.*: Historia gospodarcza Polski w dobie popowstaniowej, 1864—1918. Warszawa, 1947; Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku. Cz. 1—3. Warszawa, 1956; Rozważania o historii. Warszawa, 1958; Формирование капитализма в Польше. М., 1959; Teoria ekonomiczna ustroju feudalnego: Proba modelu. Warszawa, 1962 (2 wyd. 1983); Problemy i metody historii gospodarczej. Warszawa, 1963 (2 wyd. 1983); Miary i ludzie. Warszawa, 1970 (2 wyd. 2004); Historia, zacofanie, rozwój. Warszawa, 1983; Wokół historii. Warszawa, 1988; Rozwój gospodarczy Polski XVI—XVIII w. Warszawa, 1993; Rozdziałki. Warszawa, 1996 (змешчана бібліяграфія прац К.).

*Літ.*: Dziedzictwo Witolda Kuli. Warszawa, 1990; Piasek W. Antropologizowanie historii: Studium metodologiczne twórczości Witolda Kuli. Poznań, 2004.

**куніца**, 1) апрацаваная шкурка куніцы, якая ў ВКЛ да 16 ст. выкарыстоўвалася як сродак плацяжу; агульная назва грошай. 2) Адзін з пашыраных відаў аброку (чыншу) у 15—17 ст., які плацілі *кунічнікі* за ўзятыя ў арэнду зямлю, пчальнікі, права карыстання вадаёмамі і інш. Называлася таксама кунічная плата, кунічныя пенязі. Плата ў

велікакняжацкі скарб за карыстанне мясц. насельніцтвам паляўнічымі ўгоддзямі на У Беларусі называлася кунічная даніна. К. спаганялася ў натуральным выглядзе («шэрсцю»), а з 16 ст. перакладалася на грошы, звычайна адпавядала 12 грошам. 3) Плата нявестысялянкі, якая выходзіла замуж у чужую валасць. Выплачвалася грашамі, збожжам, палатном і інш. 4) Малаўжывальная назва валокі ў 16 ст.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 246—251.

**кунічнікі**, у ВКЛ у 15—17 ст. назва людзей, якія бралі ў арэнду ворную зямлю і інш. ўгоддзі за пэўную плату — *куніцу*. К. выступалі сяляне, мяшчане, баяры, зямяне, татары і інш. Найб. К. было ў Жамойці.

**кунтуш**, верхняе мужчынскае адзенне, якое апраналі на жупан. Адзенне ўсходняга паходжання. Прыйшоў з Венгрыі ў Польшчу, потым, у 16 ст., на Беларусь. Разам з жупаном стаў традыцыйным адзеннем заможных людзей. Шыўся доўгі, ніжэй каленяў, з разрэзам спераду, зашпільваўся на гаплікі або вял. гузікі. Верхняя частка заўсёды расшпілена, каб быў відаць жупан. Адметная асаблівасць —разрэзаныя рукавы, якія свабодна звісалі або закідваліся за плечы. У 16 ст. быў суконны, пазней шаўковы, зімою падшыты лёгкім футрам. Колер К. звычайна яркі, але цямнейшы за жупан; падкладка іншага колеру; дадаткам быў тканы каляровы пояс (у т.л. *слуцкія паясы*). У 1778 вызначаны колеры К. і жупаноў урадаўцаў паасобных ваяводстваў, што надавала ім характар ваяводскага мундзіра. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 73—75, 92, 93.



**Кунтуш**, жупан і слуцкі пояс. Канец 18 ст.

**Кунцэвіч** Іасафат (у свеце Іван; 1580, г. Уладзімір, Валынскае ваяв.— 12.11.1623), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. З правасл. сям'і гандляра, уладзімірскага райцы Гаўрылы Кунцэвіча. Пасля заканчэння пачатковай школы адпраўлены бацькам у Вільню вучыцца купецкай справе (каля 1596). Збліzіўся з езуітамі, прафесарамі Віленскай акадэміі В.Фабрыцыусам і Я.Гружэўскім, а таксама з грэкам П.Аркудзіем, найбліжэйшым паплечнікам мітрапаліта Іпація Пацея. Пад іх уплывам стаў прыхільнікам Берасцейскай уніі 1596. У 1604 стаў манахам Віленскага манастыра Св. Тройцы. Вызначаўся глыбокай рэлігійнасцю і аскетызмам. Таленавіты прапаведнік і місіянер, пераканаў многіх уплывовых асоб Вільні прыняць унію. З 1609 святар. Заснаваў навіцыят (установа для праходжання послуху будучых манахаў) пры Быценскім манастыры (1613), аднавіў царкву і манастыр у Жыровічах. У 1613—14 ігумен гэтых манастыроў. У 1614—17 архімандрыт Віленскага манастыра Св. Тройцы. Разам з мітрапалітам Іосіфам Руцкім удзельнічаў у стварэнні ордэна базыльян (1617). У 1617—18 каад'ютар (намеснік) полацкага архіепіскапа Гедэона Бральніцкага, пасля яго смерці архіепіскап полацкі (1618—23). Увёў у практыку штогадовыя епархіяльныя саборы, частыя візітацыі парафій, рэгулярныя споведзі духавенства і вернікаў. Садзейнічаў далучэнню некаторых манастыроў епархіі да базыльянскага ордэна. Дамагаўся ў шляхты вяртання царк. маёмасці. Адбудаваў Сафійскі сабор у Полацку. Энергічна распаўсюджваў унію, у т.л. і адм. сродкамі, што выклікала супраціўленне правасл. гараджан. Паколькі правасл. царква ў пач. 17 ст. была па-за законам, К. закрываў правасл. храмы, выдаляў святароў і на іх месца прызначаў уніяцкіх. У кастр. 1618 магілёўскія мяшчане зачынілі перад К. гар. браму. Тады К. звярнуўся да каралеўскіх улад, якія пакаралі бунтаўшчыкоў і гвалтоўна адабралі на карысць уніятаў правасл. цэрквы. Прызначэнне іерусалімскім патрыярхам Феафанам у 1620 полацкім правасл. епіскапам Мялеція Смятрыцкага пагоршыла становішча К. У епархіі паралельна з грэка-каталіцкай пачала стварацца правасл. іерархія. Гараджане Віцебска, Магілёва, Полацка, Оршы сталі адступацца ад уніі, адбываліся антыуніяцкія хваляванні. У сувязі з узмацненнем рэлігійнай барацьбы, знешняй небяспекі з боку Турцыі змянілася стаўленне да уніяцкай царквы кіруючых колаў Рэчы Паспалітай. Канцлер ВКЛ Л.Сапега ў лісце да К. ад 12.3.1622 абвінавaціў апошняга ў «гвалтоўным уціску чалавечага сумлення». Аўтар палемічных твораў на старабел. і польскай мовах у абарону уніі: «О фалшованю писем словеньских», 6 артыкулаў у кнізе Л.Крэўзы «Абарона адзінства», «Правілаў Іасафата архіепіскапа Полацкага», «Катэхізма слугі Божага Іасафата» і інш. У час *Віцебскага паўстання 1623* К. быў забіты. За забойства архіепіскапа 19 чал. было прыгаворана каралеўскай камісіяй на чале з Л.Сапегам да пакарання смерцю, Віцебск пазбаўлены магдэбургскага права. 16.5. 1643 К. папам рымскім Урбанам VIII




Іасафат **Кунцэвіч**. Гравюра А.Тарасевіча. 1690-я г.

прылічаны да блажэнных пакутнікаў каталіцкай царквы. У 17—18 ст. на Беларусі і Украіне фарміраваўся культ К. *Замойскім саборам 1720* уніяцкай царквы зацверджана свята ў гонар блажэннага. У Супраслі на царк.-слав. мове складзена і выдадзена «Служба святапакутніку Іасафату» (1710—30-я г.). Да труны з мошчамі (спачатку ў Полацкім Сафійскім саборы, пасля ў Бельску) ладзіліся паломніцтвы, распаўсюджваліся жыццяпісы, маляваліся абразы. 22.4.1867 папа Пій IX абвясціў К. святым. З 1949 рэліквіі К. знаходзяцца ў базіліцы св. Пятра ў Рыме.

*Літ.*: Говорский К. Иосафат Кунцевич, полоцкий униатский архиепископ. Вильна, 1865; Kalinka W. Żywot św. Jozofata Kuncewicza. Lwów, 1885; Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893. С. 389—392; Козаневич Е. Життя Св. Священомученика Йосафата Кунцевича... Жовква, 1930.

***Сяргей Казуля.***

**Куаліс** (Kuolys) Дарус (н. 17.6. 1962, г. Вільнюс), літоўскі гісторык культуры. Д-р гуманітарных навук (1992). Скончыў Вільнюскі ун-т (1985), дзе пасля выкладаў. У 1990—92 міністр, у 1992—93 намеснік міністра культуры і адукацыі, у 1993—98 намеснік дырэктара Ін-та літ. л-ры і фальклору, у 1998—2003 дарадца прэзідэнта Літвы па сац. палітыцы, з 2004 дырэктар Ін-та грамадзянскай супольнасці. Даследуе культуру, палітычную думку і л-ру ВКЛ 16—18 ст. Аўтар манаграфіі «Асоба, народ, дзяржава ў гістарычнай літаратуры Вялікага княства Літоўскага: Рэнесанс. Барока» («Asmuo, tauta, valstybė Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės istorinėje literatūroje: Renesansas. Barokas», Вільнюс, 1992), артыкулаў пра л-ру ВКЛ. Выдаў кнігі «Вітаўтас Каволіс: асоба і ідэі» («Vytautas Kavolis: asmuo ir idėjos», Вільнюс, 2000, з Р.Кавалене), выбраныя творы А.*Каяловіча* («Lietuvos istorijos ivairenybės», ч. 1—2, Вільнюс, 2003—04).

*Тв.*: Sarmatyzm a piśmiennictwo barokowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // Barok: Historia—Literatura—Sztuka. 1996. № 2; Visions of society in 16th century Lithuanian literature // Martynas Mažvydas and old Lithuania. Vilnius, 1998; Понятие литовца и Литвы в литовской писменности XVI—XVII веков // Мартинас Мажвидас и духовная культура Великого Княжества Литовского XVI века. Вильнюс; М., 1999.

**купецтва**, сацыяльная група, прадстаўнікі якой займаліся значным унутраным і знешнім гандлем, а таксама ліхвярствам. Ва ўсх. славян пачало фарміравацца ў 9—10 ст. У пісьмовых крыніцах 12—14 ст. лепш за іншыя асветлена дзейнасць К. Полацка і Віцебска. Віцебская берасцяная грамата мяжы 13—14 ст. сведчыць пра ўдзел мясц. К. ў хлебным гандлі. У неўраджайныя гады яно дастаўляла збожжа з Рыгі. Паводле дагавораў полацкіх князёў *Гердзеня* 1263 (1264) і *Ізяслава* 1265 з Інфлянцкім ордэнам К. Полацка і Віцебска магло свабодна гандляваць у Рызе, Любеку, на Готландзе. Полацкія купцы неаднаразова ўпамінаюцца ў «Рыжскай даўгавой кнізе» (1286—1352). У 14—15 ст. гандляры з бел. гарадоў ездзілі ў Польшчу, Прусію, Турцыю, Маскву, Ноўгарад, Пскоў. У Рызе іх рэзідэнцыяй быў Рускі двор (упамінаецца ў 1458), з мяжы 13—14 ст. тут існавала правасл. царква св. Мікалая. Гандаль вёўся, як правіла, оптам, нярэдка ў крэдыт. Канфлікты паміж бел. і нямецкімі купцамі разглядаліся ў спец. судах. Дзейнасці К. спрыяла ўвядзенне ў канцы 14—15 ст. магдэбургскага права ў Берасці, Слуцку, Гародні, Полацку, Менску і інш. Прадстаўнікі К. ўваходзілі ў органы гар. самакіравання. Для бел. К. 14—15 ст. характэрна маёмасная і сац. дыферэнцыяцыя. Некат. заможныя купцы выконвалі гандлёвыя даручэнні вял. князёў ВКЛ і нават вызваляліся ад выплаты транзітных і мытных збораў. К. адыгрывала станоўчую ролю ў развіцці сярэдневяковай культуры Беларусі. Купцамі былі бацька (Лука) і брат (Іван) бел. першадрукара Ф.Скарыны. Да 16 ст. склаліся купецкія дынастыі, для якіх занятак гандлем стаў традыцыйнай сямейнай справай.

У 16—17 ст. К. складала значную групу насельніцтва ў Полацку, Віцебску, Магілёве, Берасці, Пінску, Менску, Гародні, Слуцку, Міры, Бабруйску, Копысі, Шклове і інш. Пінск у 1631 толькі пад юрысдыкцыяй магістрата меў «купцов до килка сот, которыми с товарами розными, восками, лоями, скурами, сукнами и иншыми товарами, у крамах седючими, гандлями до мест головных ездят». Магілёў у 1-й пал. 17 ст. налічваў больш за 600 купцоў. Яшчэ больш іх было ў Полацку, бо для збірання купецкага падатку ў 1650 улады накіравалі ў горад 7 зборшчыкаў. Купцы звычайна вялі гандаль ва ўласных крамах, у адрозненне ад «перакупняў», якія «только таким товаром, што живности належит, таргують», і *шкотаў* (шотаў), «котории речи свои ку продаваню на собе носят». Бел. К. падтрымлівала гандлёвыя сувязі з Рыгай, Караляўцом, Варшавай, Гданьскам, Люблінам, Торунем, Гнезнам, Ноўгарадам, Псковам, Бранскам, Смаленскам, Масквой, Кіевам, Луцкам, Уладзімірам, Канстанцінопалем, Ясамі, венгерскімі гарадамі. На Захад бел. купцы вывозілі пераважна вял. партыі футра, воску, сырых і вырабленых скур, пянькі, хмелю. Футра купцы набывалі на рынках Маскоўскай дзяржавы, некаторую іх колькасць куплялі на рынках бел. гарадоў і ў сёлах. З гарадоў Захаду яны прывозілі дарагую тканіну, металічныя і шкляныя вырабы, паперу, галантарэю, гваздзіку, перац, карыцу і інш. Шляхі, па якіх правозілі тавар купцы-госці, называліся «гасцінцамі». Адзін з гал. гасцінцаў праходзіў праз усю Беларусь з З на У — ад Берасця да Оршы праз Камянец, Шарашова, Новы Двор, Ружану, Слонім, Моўчадзь, Мір, Нясвіж, Койданава, Менск, Барысаў, Начу, Бобр, Талачын, Коханаў. Праезд па гэтым гасцінцы з таварам займаў у пач. 17 ст. амаль месяц. Гандлёвымі шляхамі для К. былі рэкі Дзвіна, Дняпро, Нёман, Прыпяць і інш. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. бел. К. павялічвалася з прыгонных сялян. Так, устава Стрэшынскай вол. 1618 адзначала, што ў Стрэшыне ваколічныя сяляне з усёй воласці трымалі арандаваныя ў мяшчан крамы. Судовы запіс у кнізе менскага гродскага суда 1625 паведамляў пра ўцёкі з с. Амінавічы маёнтка Жыцін 8 сем'яў «з людей добра заможных купцов». Бацька адной з гэтых сем'яў «витины до Кролевца спушчал, конми, быдлом купчыл с двема сынами». Дакументы 16—17 ст. адносяць да купцоў і тых гандляроў, якія вялі ўнутраны гадаль у гарадах, мястэчках і вёсках ВКЛ. Жыхарам мяст. Лагішын грамата вял. князя літоўскага 1569 дазваляла «межи реками Ясольдою и Припяти по сёлах ездити, торговати, куповати, продавати». Гандлёвыя аперацыі купцоў Крычава праводзіліся ў населеных пунктах «памиж Дняпром, Сожам, Прыпятю и иншыми реками». Па-



шыраным заняткам бел. К. было і ліхвярства. К. адыгрывала вядучую ролю ў сац. жыцці гарадоў ВКЛ. З купцоў выбіралася гар. рада, бурмістры, радцы, лаўнікі.

*Літ.*: Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII вв. Мн., 1978; Хорошкевич А.Л. Русское государство в системе международных отношений конца XV—начала XVI в. М., 1980; Левко О.Н. Торговые связи Витебска в X—XVIII вв. Мн., 1989; Преображенский А.А., Перхавко В.Б. Купечество Руси, IX—XVII вв. Екатеринбург, 1997.

***Зіновій Капыскі, Валерый Перхаўка.***

**Купяціцкі абраз Маці Божай**, праваслаўная святыня Беларусі і Украіны, якая паходзіць з в. Купяцічы каля Пінска. Уяўляе сабой ніжнюю створку бронзавага крыжа-энкалпіона канца 12 ст. У цэнтры змешчана выява Багародзіцы ў рост, на яе левай руцэ сядзіць немаўля Ісус Хрыстос; уверсе, злева і справа ў круглых медальёнах выявы святых. У пачатку 19 ст. кіеўскі мітрапаліт Яўген Балхавіцінаў на падставе невядомай крыніцы датаваў з'яўленне абраза ў Купяцічах 1182. На гэтым месцы была збудавана Увядзенская царква (дакументальна вядома з 1495). У 1629 пры царкве заснаваны правасл. мужчынскі манастыр. Купяціцкі абраз набыў вядомасць як цудадзейны. Крыж быў устаўлены ў пазалочаную дошку. Пашырэнню культу абраза садзейнічалі кнігі Афанасія Кальнафойскага «Тэратургіма» (Кіеў, 1638), дзе змешчаны дадатак «Цуды купяціцкія», і Іаанікія Галятоўскага «Неба новае» (Львоў, 1665). Гравюру з выявай абраза (з кнігі 1638) у 1638 уручыў у Маскве цару Міхаілу Фёдаравічу купяціцкі намеснік *Афанасій Берасцейскі*. У 1655 абраз перанесены ў Кіеўскі Сафійскі сабор. Купяціцкі манастыр з 1740-х г. уніяцкі, у 1817 зачынены. У Купяцічах была зроблена копія абраза з дрэва, устаўлена ў сярэбраную аправу з накрыўкай (захавалася ў прыходскай царкве). Свята абраза адзначаецца 15(28) лістапада.




**Купяціцкі абраз Маці Божай**.
Гравюра. 17 ст.

*Літ.*: Пуцко В.Г. Барочныя аправы цудадзейных абразоў Маці Божай // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998; Яго ж. Купятицкий крест-энколпион // Художественный металл России: Материалы конференции памяти Г.Н.Бочарова. М., 2001; Chomik P. Monaster kupiatycki jako ośrodek kultowy cudownej ikony Matki Bożej // Życie monastyczne w Rzeczypospolitej. Białystok, 2001; Башкоў А. Старажытныя хрысціянскія святыні ў кантэксце духоўнай культуры Палесся XX ст. // Białoruskie zeszyty historyczne. 2002. Z. 17.

**Курбскі** Андрэй Міхайлавіч (восень 1528—паміж 6 і 24.5.1583), ваенны дзеяч, пісьменнік, публіцыст. З роду князёў Яраслаўскіх. З маладосці займаў высокае становішча пры маскоўскім двары. У 1552 удзельнічаў ва ўзяцці Казані. З 1556 баярын. У пачатку *Інфлянцкай вайны 1558—82* у студз. 1558 камандаваў старажавым палком, а ў чэрв. 1558 разам з А.Ф.Адашавым узначальваў перадавы полк, што дзейнічаў у напрамку Нойгаўза і Дорпата. У 1560 узначальваў рас. войскі ў Інфлянтах. У сак. 1562 узначаліў гарнізон у Вял. Луках, адкуль зрабіў напад на Віцебск. У вер. 1562 прызначаны 2-м ваяводам старажавога палка ў арміі Івана IV, якая ў студз. 1563 выступіла з Вял. Лук і захапіла Полацк. З крас. 1563 ваявода ў Дорпаце. У ноч на 30 крас. 1564 здрадзіў і ўцёк у ВКЛ, магчыма, баючыся апалы цара. Яшчэ да гэтага атрымліваў прапановы пераехаць ад караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста, гетмана М.Радзівіла Рудога і падскарбія А.Валовіча. У ВКЛ не атрымаў значных вайсковых ці дзярж. пасад, але яму быў аддадзены ў трыманне г. Ковель з ваколіцамі (1564, раней уладанні каралевы і вял. княгіні Боны), Крэўскае староства (1566—69), Смядынская вол. (1567), маёнткі ва Упіцкім пав. (1568). Зімой 1565 камандаваў 15-тысячным атрадам у паходзе на Вял. Лукі. У 1573 абраны паслом ад Берасцейскага ваяв. на элекцыю новага караля. У 1575 адбіваў напад на Валынь крымскіх татараў. У 1579 на чале свайго атрада ўдзельнічаў ва ўзяцці Полацка войскам Стафана Баторыя. Падчас паходу 1581 пад Пскоў захварэў і вярнуўся на Валынь, дзе і памёр. У 1571 ажаніўся з княжной Марыяй Юр'еўнай Гальшанскай-Дубровіцкай, а пасля разводу ў 1579 — з Аляксандрай Сямашка. З ёй меў сына Дзмітрыя, які прыняў каталіцтва з імем Мікалай і стаў падкаморым упіцкім.

Яшчэ ў Маскоўіі К. пазнаёміўся са знакамітым кніжнікам Максімам Грэкам і пазней называў яго сваім настаўнікам. Відаць, у Расіі К. напісаў адно са сказанняў пра Максіма Грэка і жыцце Аўгусціна Гіпонскага. У ВКЛ у 1580-я г. склаў кампілятыўную «Гісторыю пра восьмы сабор», заснаваную на аналагічным творы Клірыка Астрожскага. З ВКЛ даслаў у Маскву 3 пасланні да Івана IV, дзе востра крытыкаваў яго ўнутраную і знешнюю палітыку. Аднак палітычны ідэал К. быў кансерватыўны, ён абараняў правы арыстакратыі на палітычную ўладу. Гэтыя ідэі праводзіліся і ў яго творы «Гісторыю пра вялікага князя маскоўскага». У Рэчы Паспалітай К. зблізіўся з вядомымі абаронцамі правоў праваслаўных: князем К.К.*Астрожскім*, старцам *Арцеміем*, друкаром К.Мамонічам і інш. Пасланні К. маюць выразны «антылацінскі» і, яшчэ больш, антыпратэстанцкі характар. У маёнтку К. Мілянавічы каля Ковеля перапісваліся і перакладаліся на кніжную слав. мову творы ўсходнехрысціянскіх пісьменнікаў. Мэтай К. было замяніць дрэнныя ці няпоўныя пераклады твораў правасл. аўтарытэтаў на больш дакладныя і поўныя. Для гэтага сам К. пачаў вывучаць латынь і склаў зборнік «Новы Маргарыт», дзе змясціў новыя пераклады твораў Іаана Златавуста. Перакладаў таксама творы айцоў царквы Васіля Вялікага і Грыгорыя Багаслова, «Багаслоўе» і «Дыялектыку» Іаана Дамаскіна, працу нямецкага багаслова Іагана Спангенберга «Пра сілагізм». Творчасць К. значна

паўплывала на ўмацаванне пазіцый правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай.

*Тв.*: Сочинения князя Курбского. Т. 1. Сочинения оригинальные / Изд. Г.З.Кунцевича // Русская историческая библиотека. СПб., 1914. Т. 31; Novyi Margarit: Historische-kritische Ausgabe auf der Grundlage der Wolfenbütteler Handschrift / Hrsg. von I.Auerbach. Giessen, 1976—1990. Bd. 1—4, Lfg. 1—17; Переписка Ивана Грозного с Андреем Курбским / Текст подг. Я.С.Лурье и Ю.Д.Рыков. М., 1993; Die Dogmatik des Johannes von Damaskus in der Übersetyung des Fürsten Andrej M.Kurbskij (1528—1583) / Hrsg. von J.Besters-Dilger unter Mitarbeit von E.Weiher, F.Keller, H.Miklas. Freiburg, 1995.

*Літ.*: Иванишев Н.Д. Жизнь князя Курбского в Литве и на Волыни. Т. 1—2. Киев, 1849; Auerbach I. Andrej Michajlovič Kurbskij: Leben in osteuropäischen Adelsgesellschaften des 16. Jahrhunderts. München, 1985; Калугин В. Литературный кружок князя Андрея Курбского в восточнославянских землях Речи Посполитой // Slavia orientalis. 1996. № 1; Його ж. Андрей Курбский и Иван Грозный: теоретические взгляды и литературная техника древнерусского писателя. М., 1998; Його ж. «Житие Климента, епископа Римского» и «Исповедание» Псевдо-Ефрема в агиографическом своде А.М.Курбского // Paleoslavica. Cambridge (Mass.). 2001. Т. 9; Його ж. «Борение мученика Дмитрия Солунского» Симеона Метафраста // Белоруссия и Украина: История и культура. Ежегодник, 2003. М., 2003. Вып. 1; Його ж. «Житие святителя Николая Мирликийского» в агиографическом своде Андрея Курбского. М., 2003; «Житие Сильвестра, папы Римского» в агиографическом своде Андрея Курбского / Сост., предисловие, коммент. В.В.Калугина. М., 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Кур'ер Літэвскі»** («Kuryer Litewski», «Літоўскі кур'ер»), грамадска-палітычнае перыядычнае выданне. Выходзіла ў Вільні на польскай мове штотыднёва з 19.4.1760 да 19.8.1763. Выдавала Віленская акадэмія езуітаў. Рэдактар Ф.*Папроцкі*. Друкавала ў асноўным паведамленні пра палітычныя падзеі ў краіне і за мяжой. Змяшчала інфармацыю пра знаходжанне ў Вільні ўплывовых асоб, пра смерць вядомых людзей, заканчэнне пабудовы дамоў, пажары, кірмашы, цэны на жывёлу і збожжа. Мела 3 дадаткі. «Wiadomości literackie» («Літаратурныя весці») выходзілі ў крас. 1760 — вер. 1763 штотыднёва, з крас. 1761 штомесячна; змяшчалі ў асн. паведамленні з розных галін навукі. Выйшла 80 нумароў. «Wiadomości cudzoziemskie» («Чужаземныя весці») выходзілі ў 1761—63 [у 1760 ім папярэднічалі «Wiadomości uprzywilejowane» («Прывілеяваныя весці»)]. «Supplement do gazet Wileńskich» («Дадатак да віленскай газеты») выходзіў у 1761—92, змяшчаў аб'явы пра шкоды купцоў, цэхавых майстроў, пра ўцёкі слуг, судовыя іскі. Выданне «К.Л.» спынілася ў сувязі са студэнцкімі беспарадкамі, у выніку якіх рэдактары і выдаўцы пераехалі ў Коўна. З 1764 выдавалася газ. *«Газэты Віленьске»*.


KURIER LITEWSKI

W PIĄTEK DNIA 20. MARCA Z WILNA

(1)


QUO PLUS SUNT POTÆ PLUS SITIUNTUR.

Num: XXXI.

WIADOMOSCI LITERACKIE

ROKU 1760. Dnia 14. Listopada w Wilnie.

(1)

**«Кур'ер Літэвскі»**. № 4; 1761; дадатак «Вядомосьці літэрацке», № 31, 1760.

**Курляндскае і Земгальскае герцагства**, Курляндскае і Семігальскае княства, васальная дзяржава Рэчы Паспалітай на тэр. Інфлянтаў на Пд ад р. Дзвіна. Сталіца — г. Мітава (сучасная Елгава, Латвія). Утворана паводле дагавора пра падпарадкаванне Інфлянтаў вял. князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту 5.3.1562 як лен апошняга магістра Лівонскага ордэна Готарда Кетлера. У канцы 17 ст. ў выніку спрэчак паміж нашчадкамі Кетлера герцагства пазбаўлена цэнтра-


1


2


3


4

Манеты **Курляндскага і Земгальскага герцагства**: 1, 2 — талер Якуба Кетлера, 1645; 3, 4 — талер Пятра Бірана, 1780.



Да арт. **Курляндскае і Земгальскае герцагства**. Медаль «Дар Курляндыі Рэчы Паспалітай». Медальер І.Ф.Гольцгаўзер. 1774. На шчытах гербы Рэчы Паспалітай, Курляндскага і Земгальскага герцагства, маршалка Курляндскага сойма Бругена.

лізаванага кіравання і стала арэнай ваен. дзеянняў шведскіх і рас. войск у час *Паўночнай вайны 1700—21*. У 1709 пачалося аднаасобнае кіраванне герцага Фрыдрыха Вільгельма Кетлера, які ажаніўся з кузінаю цара Пятра I Ганнай Іванаўнай, але пры выездзе з Пецярбурга ён памёр (1711). Трон павінен быў заняць яго дзядзька Фердынанд, але ў Мітаву прыбыла герцагіня Ганна, пасланая туды Пятром I. Рас. рэзідэнт у Курляндыі П.М.Бястужаў патрабаваў ад герцагства 40 тыс. руб. штогод на ўтрыманне герцагіні. У Курляндыі расло незадавальненне Фердынандам, які кіраваў герцагствам з Данцыга. Гэта выкарыстаў кароль польскі і вял. князь літоўскі Аўгуст II Моцны, які жадаў замацаваць трон герцагства за прадстаўніком свайго дому. Прызначаная ім для вырашэння спрэчак паміж Фердынандам і жыхарамі герцагства камісія прызнала ў 1711 трон вакантным. Аўгуст II планаваў выдаць замуж герцагіню Ганну за маршала Францыі графа Морыца Саксонскага, свайго пазашлюбнага сына з графіняй А.Кёнігсмарк, што дало б графу права на трон. Шлюб не адбыўся, але 28.6.1726 ландтаг Курляндыі абраў Морыца герцагам. Супраць выступілі Гарадзенскі сойм 1726, які баяўся адрыву герцагства ад Рэчы Паспалітай, і Расія. У вер. 1727 у Курляндыю ўвайшлі рас. войскі, Морыц пакінуў герцагства. Права на кіраванне Курляндыяй Аўгуст II у 1727 вярнуў Фердынанду. Пасля згасання дынастыі Кетлераў у 1737 герцагам абраны граф Эрнст Ёган Біран, што было зацверджана Рэччу Паспалітай. Біран кіраваў герцагствам з Пецярбурга, дзе пры двары імператрыцы Ганны Іванаўны быў фактычным рэгентам Рас. імперыі. У 1740 Біран узяты пад варту. У 1758 герцагам абраны каралевіч Рэчы Паспалітай Карл Хрысціян Вецін, які быў падтрыманы Расіяй. Карл Хрысціян быў католікам, што з цягам часу стала падставай для яго змяшчэння. У 1762 імператар Пётр III прымусіў Эрнста Ёгана саступіць свае правы на герцагства прынцу Георгу Людвігу Гальштэйн-Гаторпскаму. Пасля прыходу да ўлады Кацярыны II стаўка зноў зроблена на Бірана. У 1762 у герцагства ўведзены рас. войскі, Карл Хрысціян пакінуў Мітаву. У 1763 герцагам зноў стаў Эрнст Ёган Біран, які пасля смерці караля Аўгуста III і ўступлення на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага атрымаў інвеституру на герцагства як на лен Рэчы Паспалітай. У 1769 Эрнст Ёган адмовіўся ад улады на карысць старэйшага сына Пятра. Канфедэрацыя шляхты ВКЛ у 1770 зноў абвясціла герцагам Карла Хрысціяна, але ўлада засталася ў Пятра. На тэр. герцагства пашырылася *паўстанне 1794*. Ландтаг Курляндыі прасіў Кацярыну II абараніць герцагства, і з дапамогай рас. войск паўстанцы былі разбіты. 7.3.1795 ландтаг скасаваў падпарадкаванне герцагства Рэчы Паспалітай і добраахвотна далучыў яго да Расіі без усялякіх умоў. 17.3.1795 герцаг Пётр адрокся ад трона, а 28.1.1796 герцагства пераўтворана ў Курляндскую губерню Рас. імперыі.

*Літ.*: B u e s A. Das Herzogtum Kurland und der Norden der polnisch-litauischen Adelsrepublik im 16. und 17. Jahrhundert: Möglichkeiten von Integration und Autonomie. Giessen, 2001; D o l i s k a s V. Tarp Respublikas ir Rusijos: Kurso sosto ipėdinystė XVIII a. viduryje // Lietuva ir jos kaimynai. Vilnius, 2001.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***




**Курляндскае і Земгальскае герцагства** і Шведская Лівонія. Карта. 17 ст.

**Курск** (цяпер горад, цэнтр Курскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад на р. Сейм пры ўпадзенні р. Тускар. Упершыню ўпамінаецца ў «Жыціі Феадосія Пячэрскага» (не раней за 1036), у летапісах — з 1095. У 1-й пал. 12 ст. стаў цэнтрам удзела, што вылучыўся са складу Ноўгарад-Северскага княства. У 1239, паводле археал. даных, знішчаны манголамі. Аднак да 1280-х г. Курскае княства было ў росквіце, мела статус вялікага, кіравала шэрагам дробных удзельных княстваў (напр., Рыльскім і Варгольскім). У 1278 каля К. асталяваўся баскак Ахмат, які арганізаваў тут свае «слобады». У пач. 1280-х г. адбылося антытатарскае паўстанне. У адказ войска, прысланае ханам Нагаем, 20 дзён спустошала Курскае княства, пас-

ля чаго ў летапісы звесткі пра К. больш не траплялі. На доўгі час К. спыніў існаванне. На яго месцы заставалася гарадзішча, а вакол распасціралася *Поле* — незаселены стэп, месца качэўяў ардынцаў. Заселеная тэрыторыя да 16 ст. пачыналася больш за 100 км на З ад К. Каля 1362, у час паходу Альгерда ў паўд.-ўсх. рускія землі тэрыторыя вакол К. трапіла ў склад ВКЛ. Фармальна К. стаў адным з крайніх пунктаў на паўд.-ўсх. мяжы ВКЛ. Залатаардынскія, а потым крымскія ханы, якія лічылі сябе ўладарамі рус. зямель, выдавалі вял. князям літоўскім ярлыкі з правам валодання пэўнымі тэрыторыямі, сярод якіх трапляліся і не існуючыя гарады, у т.л. К. Упамінаецца таксама ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) сярод кіеўскіх гарадоў. У сярэдзіне 15—пач. 16 ст. тэрыторыя вакол К. фактычна ўваходзіла ў склад Вял. Арды, на р. Сейм размяшчаліся татарскія качэўі. У 1487 насупраць Курскага гарадзішча павінна была адбыцца сустрэча рускага і крымскага паслоў, што сведчыць аб адсутнасці ўплыву ВКЛ у гэтым рэгіёне. У час памежных войнаў паміж ВКЛ і Вял. княствам Маскоўскім тэрыторыя вакол К. змяніла фармальнага ўладальніка. Паводле дагавора аб перамір'і 1503 ад раёна К. мяжа ВКЛ адсунулася на У. Горад быў адноўлены толькі ў 1596 ужо пад рас. уладай.

*Літ.*: Загоровский В.П. История вхождения Центрального Черноземья в состав Российского государства в XVI веке. Воронеж, 1991.

***Віктар Цемушаў.***

**Курцэвічы**, княжацкі род уласнага герба «Курч». Прозвішча ад мянушкі Курч, якую ў 1-й пал. 15 ст. насіў пінскі князь Канстанцін з роду Нарымонта, родапачынальнік князёў *Бурэмскіх*. Яго сын Міхаіл К. меў сыноў Фёдара і Васіля. Сыны першага Сямён, Леў і, відаць, Аляксандр першапачаткова зваліся К., пасля — Бурэмскімі. 2-і сын Міхаіла Васіль (упамінаецца ў 1475 і 1486) і яго нашчадкі зваліся выключна К. Асн. маёнткі мелі на Валыні. Найб. вядомыя:

Іван Васілевіч (?—да 1528), сын Васіля Міхайлавіча. Меў значныя маёнткі на Валыні, з якіх яго ўдава ставіла ў 1528 у войска ВКЛ 8 коннікаў. Меў сыноў Васіля, Багдана і Міхаіла.

Міхаіл Іванавіч (?—пасля 1583), сын Івана Васілевіча. Суддзя земскі ўладзімірскі ў 1554—58. У 1569 падпісаў акт аб далучэнні Валыні да Кароны Польскай. Меў сыноў Аляксандра, Канстанціна, Фёдара (падстарасты ўладзімірскія) і Пракопа.

Васіль Іванавіч (Булыга; каля 1555), сын Івана Васілевіча. Каралеўскі дваранін, ротмістр, дзяржаўца ровенскі ў 1545.

Дзмітрый Васілевіч (Булыга; ?—1596), сын Васіля Іванавіча. У 1569 падпісаў акт аб далучэнні Валыні да Кароны Польскай. Падстараста белацаркоўскі ў 1590—95, дзяржаўца ванячынскі, войскі кіеўскі з 1592.

Ян Дзмітрыевіч (Булыга; ?—пасля 1613), сын Дзмітрыя Васілевіча. Падстараста чаркаскі ў 1601 і белацаркоўскі з 1609. Яго нашчадкі на аснове легендарных звестак зваліся князямі Карыятавічамі-Курцэвічамі.

**Курчы**, шляхецкі род герба «Радван». Вядомы з 16 ст. Паходзілі з Гарадзенскага пав. Найб. вядомыя:

Марцін Данілавіч (?—пасля 26.2.1602), сын Данілы Сямёнавіча. Войскі віцебскі з 1578, маршалак гаспадарскі ў 1585—89, ваявода дорпацкі з 1600. З 1560 як ротмістр удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. У 1567 наглядаў за будаўніцтвам замка ва ўрочышчы Сарыца ў Віцебскім ваяв. Пад камандаваннем Р.Сангушкі ўдзельнічаў у пераможнай бітве пад Чашнікамі 21.7.1567 і ва ўзяцці Улы ў 1569. У 1580—82 ваяваў пад Вял. Лукамі і Псковам. За ваенныя заслугі атрымаў урады старасты адэльскага (1576) і фелінскага (1586). Валодаў маёнткамі ў Гарадзенскім (Уснар), Лідскім, Навагародскім, Ваўкавыскім пав.

Яўстахій (Астафій; ?—1647), сын Марціна Данілавіча. Падкаморы парнаўскі ў 1599—1602, падкаморы гарадзенскі з 1617, стараста упіцкі з 1618, кашталян віцебскі з 1639. Валодаў маёнткамі Сянно, Уснач, Бераставіца. У 1609 заснаваў касцёл у Сянне, у 1635 — кляштар францысканцаў у Гародні.

Стафан (?—1702), сын Станіслава. Лідскі войскі з 1650 і падкаморы з 1665, берасцейскі кашталян з 1668 і ваявода 1672; маршалак Трыбунала ВКЛ у 1677. Належаў да групоўкі Сапегаў. Валодаў маёнткамі Плужаны і Валеўка (збудаваў там дамініканскі кляштар і уніяцкую царкву) у Навагародскім ваяв.

***Валерый Пазднякоў.***

**Курчэўскі** Ян [1854, мяст. Данюшава Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска ў Смаргонскім р-не—17(30).7.1917], гісторык рымска-каталіцкай царквы, рэлігійны дзеяч. Магістр тэалогіі (1881). Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, Пецярбургскую рымска-каталіцкую духоўную акадэмію (1881). З 1881 ксёндз, выкладаў Закон Божы ў 2-й Віленскай гімназіі. За процідзеянне ўжыванню богаслужэбных кніг на рус. мове звольнены з гімназіі. З 1886 настаяцель касцёла ў в. Кемелішкі каля Астраўца, з 1889 у касцёле св. Якуба ў Вільні, пазней займаў духоўныя пасады ў курыі Віленскага біскупства. У 1907—17 старшыня Т-ва сяброў навук у Вільні. Супрацоўнічаў з варшаўскай «Падручнай касцельнай энцыклапедыяй». Аўтар кніг пропаведзей, гіст. прац. У сваіх даследаваннях абапіраўся на першакрыніцы, што надае ім значную каштоўнасць.

*Тв.*: Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912; Kościół zamkowy, czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Cz. 1—3. Wilno, 1908—16.

*Літ.*: Słownik polskich teologów katolickich. T. 2. Warszawa, 1982 (змешчана бібліяграфія прац К.).

***Янка Трацяк.***

**Кутшэба** (Kutrzeba) Станіслаў (15.11.1876, Кракаў—7.1.1946), польскі гісторык, прадстаўнік гісторыка-юрыдычнай школы. Правадзейны чл. Польскай АН у Кракаве (1918), д-р габілітаваны (1902), праф. звычайны (1912). Скончыў юрыд. ф-т Ягелонскага ун-та ў Кракаве (1898), з 1908 праф. гісторыі права ў гэтым ун-це. З 1939 прэзідэнт Польскай АН у Кракаве. У 1939—40 у час нямецка-фашысцкай акупацыі вязень канцлагера Заксенгаўзен, з 1942 удзельнічаў у працы падпольнага ун-та ў Кракаве. Дэлегат Краёвай Рады Нарадовай (1945). Даследаваў гісторыю дзяржавы і права Польшчы і Рэчы Паспалітай, гісторыю польскіх гарадоў, гандаль у сярэднія вякі. Падрыхтаваў шмат археаграфічных вы-

данняў, у т.л. *«Акты уніі Польшчы з Літвою 1385—1791»* (з У.Сямковічам).

*Тв.*: Historia ustroju Polski w zarysie. T. 1—4. 1905—17; Очерк истории общественно-государственного строя Польши: Пер. с пол. СПб., 1907; Unia Polski z Litwą // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa etc., 1914; Dawne polskie prawo sądowe. T. 1—2. 1921; Historia zródeł dawnego prawa polskiego. T. 1—2. 1925—26. *Літ.*: Studia historyczne ku czci Stanisława Kutrzeby. Kraków, 1938; Kwartalnik historyczny. 1947. R. 54 (змешчана бібліяграфія прац К.).

***Дзмітрый Караў.***

**куфа** (ад ням. Kufe вялікая бочка), мера аб'ёму. У канцы 16 ст. ў ВКЛ К. называлі *вядро* аб'ёмам 6 і 30 *квартаў* (5,6 і 28,26 л). У 17 ст. ўпамінаецца К. ў 114 варшаўскіх *гарцаў* (439,6 л). У 1771 у Рагачоўскім старастве К. змяшчала 11 станаў гарэлкі па 20 гарцаў, якая адпавядала віленскай *бочцы* (621 л) у сістэме мер ВКЛ 1766.

***Яўген Анішчанка.***

**кухары**, катэгорыя дваровых слуг у ВКЛ у 15—18 ст., якія адказвалі за прыгатаванне ежы для свайго пана і яго адміністрацыі. Існавалі пры двары вял. князя, магнатаў, шляхты. Паходзілі з сялян, шляхты. У 15—1-й пал. 16 ст. К. былі пры большасці буйных дзярж. замкаў: Гародні, Віцебску, Луцку і інш. К. велікакняжацкага двара мелі асобы статус, займалі пасаду па спец. распараджэнні (лістом) вял. князя. На аналагічным становішчы знаходзіліся велікакняжацкія пекары. Служба К. перадавалася ў спадчыну пры здольнасці да яе нашчадкаў і пры згодзе вял. князя. Паводле «Уставы на валокі», К. выконвалі сваю службу з 2 вольных валок. У час невыканання кухарскай павіннасці К. з адной валокі плацілі чынш, другая заставалася вольнай. У час валочнай памеры зямлі К. велікакняжацкага двара былі сканцэнтраваны ў Гарадзенскім пав., некаторыя К. былі пераведзены на цяглую службу. У сярэдзіне 16 ст. К. атрымалі ў в. Здановічы, Каменны Мост, Нецечы, Радзеевічы, Семярэнкі Гарадзенскага пав. 56 валок. К. гэтых вёсак мелі велікакняжацкія прывілеі на гэтыя землі ад Стафана Баторыя (1582), Жыгімонта Вазы (1590), Уладзіслава Вазы (1633), Яна Казіміра (1660), Міхала Вішнявецкага (1670). Прывілей 1590 дазволіў К. прадаваць свае службовыя землі, прывілей 1660 удакладніў гэты пункт, абмежаваўшы права К. вольна распараджацца землямі толькі пры здзелках паміж сабой. У сярэдзіне 16—17 ст. большасць велікакняжацкіх К.-сялян атрымала шляхецтва. Акрамя службы пры двары на кухні, яны суправаджалі вял. князя ў ваенных паходах. У 1670 іх кухарская служба была заменена ваеннай (павінны былі ставіць 1 конніка з 8 валок), у мірны час плацілі чынш 3 злотыя з валокі. У 17 ст. К. судзіліся гродскім і старасцінскім судом «правам шляхецкім». К. не давалі дзесяціны. У прыватных уладаннях К. адносіліся да дваровай чэлядзі і знаходзіліся на грашовым і натуральным утрыманні пана (што найб. пашырана ў 17—18 ст.) ці атрымлівалі за службу вольны зямельны надзел у 0,5—1 валоку. У 17—18 ст. у дварах магнатаў шырока выкарыстоўваліся К. з замежных краін.

*Літ.*: Шаланда А. Пергаміны канца XVI—XVII ст. на лацінскай і польскіх мовах у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея // Герольд Litherland. 2002. № 3—4.

***Аляксандр Доўнар.***

**кухмістар**, урад (пасада) у ВКЛ. Вядома з канца 15 ст., у 1569 скасавана, у 1576 адноўлена. Да 17 ст. ператварылася ў дыгнітарскую. Першапачаткова загадваў прыдворнай кухняй і кухарамі. Ва ўрачыстых выпадках (элекцыя, прыём паслоў і інш.) асісціраваў за сталом вял. князю, распавядаючы пра стравы, што падаваліся. Намінальна кіраваў *стольнікам, падстолім, крайчым, чашнікам, падчашым* і *піўнічым*. У Рэчы Паспалітай існавалі асобныя К. ВКЛ і Польшчы.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Кухціцкі кальвінскі збор**. Існаваў у сядзібе Кухцічы Менскага пав. (цяпер пас. Першамайскі Уздзенскага р-на). Узведзены ў сярэдзіне—2-й пал. 16 ст., відаць, пры тагачасным уладальніку Кухціч М.*Кавячынскім*. У 1648 пры яго ўнуку Крыштофе, менскім падкаморым, з пераходам Кавячынскіх з кальвінізму ў каталіцтва, збор пераабсталяваны ў капліцу-пахавальню. Асн. аб'ём — мураванае кампактнае шматграннае ў плане збудаванне (таўшчыня сцен да 1,5 м) з конусным шатровым дахам і кубападобнай апсідай. У пач. 1780-х г. пры М.Завішы перабудаваны ў стылі класіцызму італьянскім архітэктарам



**Кухціцкі Кальвінскі збор**.

К.*Спампані*: гал. фасад быў фланкіраваны цыліндрычнымі вежамі з шатровымі дашкамі і вузкімі байніцамі, у дэкоры выкарыстаны ляпныя гірлянды і слаістыя пілястры. Дзейнічаў як каталіцкая філіяльная капліца да 1917 (апошняя ўладальніца М.Радзівіл з Завішаў), потым да 1958 выкарыстоўваўся пад гаспадарчыя патрэбы. У канцы 1990-х г. накрыты новым рубероідным дахам.

*Літ.*: Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993; Бажэнаў Ю. Кухціцкі збор — сведка гісторыі // Бел. гіст. часопіс. 2003. № 3.

***Юрый Бажэнаў.***

**Куцеінская друкарня**, адзін з асноўных кірылічных выдавецкіх цэнтраў на Беларусі ў сярэдзіне 17 ст. Дзейнічала ў 1631—54 пры *Куцеінскім Богаяўленскім манастыры*. Выдавала кнігі богаслужэбнага, малітоўнага, духоўна-павучальнага і асветна-падручнага характару на царк.-слав. і старабел. мовах. Заснавана С.*Собалем* па запрашэнні ігумена *Іаіля* Труцэвіча, фундатарам быў Б.Статкевіч. Першыя 2 гады дзейнічала пад кіраўніцтвам Собаля. У гэты час выйшлі кнігі «Малітвы штодзённыя», «Буквар» (абедзве 1631), «Часаслоў», часткова дадрукоўваўся кіеўскі «Апостал» (абедзве 1632). Відаць, у 1632—34, будучы, хутчэй за ўсё, яшчэ ў Куцейне, друкар паўторна апублікаваў некаторыя свае кіеўскія выданні («Актоіх» Іаана Дамаскіна і «Ліманар» Іаана Мосха), захаваўшы ў іх старыя выхадныя звесткі.

У 1635 Собаль ужо працаваў у Буйнічах, дзе выдаў «Псалтыр». Разам з тым, як лічыць Я.Д.Ісаевіч, ён дапамог куцеінскім манахам займець уласнае друкарскае абсталяванне, адліў для іх са сваіх матрыц шрыфты. Навастворану друкарню ўзначаліў ігумен Іаіль

Труцэвіч, і ўжо ў 1636 там быў выдадзены «На «Ойча наш» выклад» Іаана Златавуста. На працягу няпоўных 20 гадоў з новага куцеінскага варштату выйшлі 11 кніг, некаторыя з іх вытрымалі па некалькі выданняў: «Дыдаскалія» Сільвестра Косава (1637, 1653), «Псалтыр» (1642, каля 1650), «Дыёптра» (1651, 1654). Частка апублікаваных тэкстаў была перакладзена на старабел. мову ў Куцейне: «На «Ойча наш» выклад», «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа»; некаторыя іншыя перадрукоўваліся (часам з пэўнымі зменамі) з папярэдніх бел. і ўкр. выданняў, напр., «Буквар языка славеньска» і «Лексікон» Памвы Бярынды (абодва 1653).

У 1654—55 манахі Богаяўленскага манастыра разам з друкарскім абсталяваннем паводле рашэння патрыярха Нікана былі пераведзены ў Іверскі манастыр на Валдайскім воз. пад Ноўгарадам. Тут было выдадзена некалькі кніг, у прыватнасці, скончаны друк чарговага выдання «Брашна духоўнага» (1661), распачаты яшчэ ў Куцейне. У 1665 па патрабаванні патрыярха Нікана друкарскае абсталяванне было перавезена ў Васкрасенскі манастыр, дзе захоўвалася без выкарыстання да перадачы варштата ў 1676 у Маскву.

У К.д. меўся, відаць, толькі 1 варштат; тыражы дасягалі некалькіх сотняў паасобнікаў. Кнігі часцей за ўсё выдаваліся фарматам у 4-ю долю аркуша, толькі зрэдку сустракаецца фармат «у аркуш», «у васьмёрку» і «ў дванаццатку». У Куцейне развілася самабытная школа кніжнай гравюры (у тэхніцы ксілаграфіі), паводле стылістыкі цесна звязаная з традыцыямі нар. мастацтва.

*Літ.*: Симмонс Дж.С.Г. О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине // Книга: Исследования и материалы. М., 1963. Сб. 8; Зернова А.С. Белорусский печатник Спиридон Соболь // Там жа. М., 1965. Сб. 10; Исаевич Я.Д. Преемники первопечатника. М., 1981; Кніга Беларусі (1517—1917): Зводны каталог. Мн., 1986; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI—середине XVII в. Мн., 1989; Шматаў В.Ф. Мастацтва беларускіх стараддрукаў XVI—XVIII стст. Мн., 2000; Jaroszewicz-Piereslawcew Z. Druki cyrylickie z oficyn Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI—XVIII w. Olsztyn, 2003; Лаўрык Ю. Беларуская культура ў Іверскім манастыры // Wspólnota pamięci. Katowice, 2005.

*Юрый Лаўрык.*

**Куцеінскі Богаяўленскі манастыр.** Заснаваны ў 1623 як правасл. манастыр. Размешчаны ў Куцейне — паўн.-зах. ускраіне г.Орша ў сутоках Дняпра і Куцеінкі. Складаўся з гал. драўлянага Богаяўленскага сабора, мураванай Свята-Духаўскай царквы, званіцы, манастырскіх і гаспадарчых пабудоў. Быў абнесены агароджай з бутавага каменю і цэглы. Драўляны Богаяўленскі сабор пабудаваны ў 1623—35 (згарэў у 1888). У 1630 бел. асветнік і кнігадрукар Спірыдон Собаль заснаваў пры манастыры *Куцеінскую друкарню*. Захаваліся Свята-Духаўская царква (узведзена ў 1-й пал. 17 ст., рэстаўравана ў 1990-х г.), манастырскі будынак, частка сцяны.

*Тамара Габрусь.*

**куцеінскі кніжны цэнтр**, адзін з найбольш значных цэнтраў кніжнай культуры на Беларусі ў 1620—50-х г. Пры мужчынскім *Куцеінскім Богаяўленскім манастыры* існавала *Куцеінская друкарня* з пераплётнай майстэрняй. У Богаяўленскім і дзявочым *Куцеінскім Успенскім манастыры* захоўваліся багатыя кнігазборы, прычым і самі манахі (відаць, і манахіні) мелі прыватныя келейныя б-кі і займаліся перапісваннем кніг. Некалькі рукапісаў, створаных у гэтых асяродках, захоўваюцца ў Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі і ў Нац. б-цы Беларусі. У Куцейне перапісваліся цэлыя кнігі, патрэбныя для царк. ўжытку (напрыклад, ірмалоі), а таксама ствараліся рукапісныя дадаткі да старадрукаў малітоўнага зместу (у прыватнасці, да «Брашна духоўнага»), што знаходзіліся ва ўласнасці манахаў. Над адной рукапіснай кнігай маглі працаваць 4—5 чал. — ад разліноўшчыка да ўласна пісца і мастакоў розных спецыяльнасцей. У аздабленні манускрыптаў, пісаных у Богаяўленскім манастыры, заўважны ўплыў кнігі друкаванай: арганізацыя старонкі ў іх нярэдка нагадвае выданні Куцеінскай друкарні, застаўкі і ініцыялы бываюць выкананы ў стараддрукаваным стылі і скапіраваны са старадрукаў, сустракаецца тытульны ліст. Шэдэўр куцеінскага кнігапісання — Баркулабаўскі ірмалой, перапісаны ў 1651 у Куцеінскім Богаяўленскім манастыры па заказу ігуменні Баркулабаўскага Узнясенскага манастыра Фаціній. Кніга мае па-мастацку аздоблены тытульны ліст, створаны пад



Царква **Куцеінскага Богаяўленскага манастыра**. Гравюра 19 ст.

уплывам тытульных лістоў бел. і ўкр. друкаваных выданняў і мастацкіх твораў 1-й пал. 17 ст. Ірмалой апраўлены ў чорную скуру на дошках, са сляпым цісненнем, характэрным для апраў усходнеславянскіх, у т.л. беларускіх, кніг таго часу.

Б-ка Богаяўленскага манастыра пры перасяленні патрыярхам Ніканам куцеінскіх манахаў у Іверскі манастыр пад Ноўгарадам была перавезена разам з друкарняй. Пазней яна амаль цалкам загінула пры пажарах, самы знішчальны з якіх здарыўся ў 1704. Пасля яго з куцеінскіх збораў засталося толькі некалькі дзесяткаў богаслужэбных і духоўна-павучальных кніг у рызніцы манастырскай царквы і ў інш. Ніканавых манастырах, напрыклад, Васкрасенскім. Захаваліся і асобныя выданні, якія знаходзіліся ў прыватнай уласнасці тых манахаў, што засталіся на Беларусі. Дакладныя звесткі пра кнігазбор Успенскага манастыра адсутнічаюць да 19 ст. Манашкі некалькі разоў перасяляліся ў інш. асяродкі, у прыватнасці ў Баркулабаўскі Узнясенскі манастыр, Маскоўскі Новадзявочы і Смаленскі Узнясенскі; кожны раз яны забіралі з сабой, прынамсі, частку кніг. У 1829 кнігазбор Успенскага манастыра налічваў 79 назваў прыблізна ў 120 тамах (без уліку наалтарных Евангелляў, што захоўваліся пры манастырскіх цэрквах) і меў, між іншым, выданні Куцеінскай друкарні. Ядро фонду складалася пераважна з бел. і ўкр. кніг бога-



служэбнага, малітоўнага і духоўна-павучальнага характару. Пазней у б-ку пачалі паступаць выданні маскоўскага друку.

*Літ.*: Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI—середине XVII в. Мн., 1989; Лаўрык Ю. Баркалабаўскі ноталінейны ірмалой — помнік кнігапіснай традыцыі Куцеінскага манастыра // Музейны веснік. Мн., 2006. Вып. 3.

***Юрый Лаўрык.***



**Куцеінскі Успенскі манастыр**. Малюнак Дз.Струкава. 2-я пал. 19 ст.

**Куцеінскі Успенскі манастыр**. Існаваў у 17—20 ст. Засн. як жаночы манастыр у 1631 Багданам Статкевічам у Куцейне на паўд.-зах. ускраіне г.Орша. У комплекс уваходзіла некалькі драўляных цэркваў, жылыя і гасп. пабудовы. Гал. драўляны сабор згарэў у 1635. Пабудаваны ў 1655 мураваны Успенскі сабор меў рысы стылю барока. Крыжова-купальны 3-апсідны храм. Асн. неф і крылы трансепта былі накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Сяродкрыжжа ўвенчана 8-гранным глухім барабанам і масіўным грушападобным купалам з галоўкай. Сцены ўпрыгожаны прафіляванымі карнізамі, пілястрамі на вуглах. Вокны высокія з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Франтоны завершаны галоўкамі і аздоблены патройнымі плоскімі арачнымі нішамі. У 1658 куцеінскія манахі пераведзены ў новаадчынены Уваскрасенскі манастыр у Смаленску. Ёсць звесткі, што з Куцейна былі і першыя насельніцы Новадзявочага манастыра ў Маскве. У 1842 манастыр прылічаны да 1-га класа. Зачынены ў 1918, будынкі не захаваліся.

***Тамара Габрусь, Аляксандр Ярашэвіч.***

**Куча** Ілья, гл. *Ілья.*

**Кучукі**, шляхецкі род герба «Сястрэнец». Родапачынальнік Кучук у 1382 быў каморнікам вял. князя Ягайлы, удзельнічаў у забойстве Кейстута. Яго сын Конрад (?—пасля 1437) валодаў Дакудавам і Жырмунамі ў Лідскім пав., там атрымаў ад вял. князя маёнтак Шчучын. Меў сына Яна (каля 1410—каля 1478), маршалка гаспадарскага (дворскага) у 1469—78 і намесніка лідскага ў 1473. Сынамі апошняга былі Юрый (Ежы; каля 1435—пасля 1482), маршалак гаспадарскі ў 1482, і Войцех (каля 1440—пач. 1506), маршалак гаспадарскі ў 1492—1505, намеснік уладзімірскі ў 1494 і ваўкавыскі ў 1496. Пасля смерці Войцеха родавыя маёнткі ў Лідскім пав. і выслужанае ім Палонна ў Луцкім пав. праз шлюб яго дачкі перайшлі да С.П.Кішкі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Кучынскас** (Кучас; Kučinskas, Kučas) Антанас (14.10.1900, в. Юшкас Шакяйскага р-на, Літва—28.4.1988), літоўскі гісторык. Д-р гісторыі. Скончыў Каўнаскі ун-т (1927), вучыўся ва ун-тах Нансі і Грэнобля. Працаваў выкладчыкам і дырэктарам гімназій у Марыямполі (1927—38), Шаўляі (1939—40), Каўнасе. У 1943 зняволены фашыстамі ў канцлагер Штутгоф. Пасля вызвалення ў 1945 жыў у Варшаве і Парыжы, з 1946 у ЗША, у 1947—69 праф. ун-та ў г. Скрантан. Аўтар грунтоўнага даследавання пра вял. князя Кейстута, прац пра барацьбу ВКЛ супраць крыжакоў, папскую палітыку ў Прыбалтыцы, па гісторыі літоўцаў у Амерыцы, дзейнасць арцыбіскупа Ю.Матулевіча, мемуараў.

*Тв.*: Kestučio mirtis // Athenaeum. Kaunas, 1932. T. 3; Kestučio kovos su vokiečiu ordinu // Athenaeum. Kaunas, 1933. T. 4; Gedimino dinastijos kilmė. Kaunas, 1934; Kęstutis lietuvių tautos gynėjas. Kaunas, 1938 (2 leid. Vilnius, 1989).

***Валерый Пазднякоў.***

**куша**, гл. *Арбалет.*

**Кушаль** Ян (?—пасля 1765), пісьменнік. Відаць, выкладаў у піярскім калегіуме ў Віцебску, дзе была пастаўлена яго вершаваная трагедыя «Артаксар» (Вільня, 1765). Сюжэт яе ўзяты са стараж.-персідскай гісторыі. Жорсткаму цару Артаксару ў трагедыі процістаіць моладзь, якая ўзнімае паўстанне. Выказваюцца асветніцкія думкі пра негуманнасць улады, заснаванай на тыраніі, вера ў надыход «залатога часу і вольнасці для ўсіх». У тэксце трапляюцца беларусізмы.

***Адам Мальдзіс.***

**Кушліцкая бітва 1661**. Адбылася ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у пач. ліст. 1661 паміж войскамі ВКЛ і Польшчы з аднаго боку і рас. арміяй з другога каля с. Кушлікі, за 10 вёрст ад Дзісны. Войска ВКЛ узначальваў К.Жаромскі, кароннае (польскае) — С.*Чарнецкі*, расійскае — І.А.*Хаванскі*. 27 кастр. ў выніку першага бою войска Жаромскага, у склад якога ўваходзілі казацка-сял. атрады, пацярпела паражэнне. Аднак праз некалькі дзён нечакана для Хаванскага падышла конніца Чарнецкага. У выніку другой вырашальнай бітвы аб'яднанне польска-літ. войска разбіла рас. армію, захапіла абоз, гарматы, 130 сцягоў, мноства палонных, у т.л. сына Хаванскага Пятра. Загінулі каля 4 тыс. рас. воінаў. Сам Хаванскі з невял. світай уцёк у Полацк. На ўрачыстасці з нагоды перамогі ў бітве прыбыў кароль Ян II Казімір з 5 харугвамі конніцы. Пасля К.б. ваен. дзеянні на Беларусі часова прыпыніліся.

*Літ.*: Витебская старина. Витебск, 1885. Т. 4, ч. 2. С. 378; Акты Московского государства. СПб., 1901. Т. 3. С. 457—458.

***Васіль Мялешка.***

**Кушнярэвіч** Аляксандр Мікалаевіч (н. 26.5.1958, в. Дзедзелавічы Барысаўскага р-на), беларускі гісторык архітэктуры. Д-р мастацтвазнаўства (2005), дацэнт (1995). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1982). У 1982—87 археолаг архітэктуры Ін-та «Белспецпраектрэстаўрацыя». З 1987 працаваў у Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі, з 1992 выкладаў у Бел. дзярж. педагагічным ун-це, з 2005 заг. кафедры гісторыі сусветнай цывілізацыі Міжнар. гу-

манітарна-эканам. ін-та. Даследуе гатычнае дойлідства ВКЛ.

*Тв.*: Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст.: Гістарычнае і архітэктурна-археалагічнае даследаванне. Мн., 1993; Вынікі архітэктурна-археалагічнага даследавання сакральнай архітэктуры Вялікага княства Літоўскага XIII—XIV стст. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2003. № 6; Раманскія ўплывы ў мастацтве Беларусі // Там жа. № 7; Сасудападобная гатычная кафля Вялікага княства Літоўскага // Весці Бел. дзярж. пед. ун-та імя М.Танка. 2002. № 3; Рамана-гатычныя ўплывы ў мастацтве Беларусі XI—XIV стст. // Там жа. 2003. № 2; Гатычнае сакральнае дойлідства Вялікага княства Літоўскага: гісторыка-культурная стылістыка // Там жа. Сер. 2. 2004. № 1; Мураванае мілітарнае гатычнае дойлідства ВКЛ: гісторыка-архітэктурная тыпалогія // Там жа; Гісторыка-архітэктурная тыпалогія мураванага дынастычнага абарончага дойлідства ВКЛ // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 12.

**Кэмпа** (Kempa) Томаш (н. 25.2. 1969, г. Быдгашч, Польшча), польскі гісторык. Д-р гуманістычных навук (1998). Скончыў Тарунскі ун-т (1993). З 1993 дактарант, з 1998 ад'юнкт Ін-та гісторыі і архівістыкі Тарунскага ун-та. Даследуе палітычную і грамадскую гісторыю ВКЛ і рус. зямель Кароны Польскай у 16—17 ст., рэлігійную сітуацыю ў ВКЛ у эпоху контррэфармацыі, гісторыю праваслаўя і Берасцейскай уніі.

*Тв.*: Konstanty Wasyl Ostrogski (1524/1525—1608), wojewoda kijowski i marszałek ziemi wołyńskiej, Toruń, 1997; Proces Nicefora na sejmie w Warszawie w 1597 roku // Europa Orientalis. Toruń, 1996; Mikołaj Krzysztof Radziwiłł Sierotka (1549—1616), wojewoda wileński, Warszawa, 2000; Fundacje monasterów prawosławnych w Rzeczypospolitej w pierwszej połowie XVII wieku // Życie monastyczne w Rzeczypospolitej. Białystok, 2001; Magnateria ruska wobec unii lubelskiej (1569) // Białoruskie zeszyty historyczne. 2001. Z. 16; Dzieje rodu Ostrogskich, Toruń, 2002; Metropolita Michał Rahoza a unia brzeska // Klio. 2002. T. 2; Urzędnicy i klienci Mikołaja Krzysztofa Radziwiłła Sierotki // Lituano-slavica posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9; Zabiegi kniaziów Olelkowiczów słuckich o uzyskanie miejsca w senacie po 1569 roku // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 2003. T. 47; Kariery przedstawicieli prawosławnych rodów Ogińskich i Stetkiewiczów w XVII wieku — podobieństwa i rożnice awansu społecznego, ekonomicznego i politycznego // Władza i prestiż. Białystok, 2003; Plany separatystycznej elekcji w Wielkim Księstwie Litewskim w okresie trzech pierwszych bezkrólewi po wygaśnięciu dynastii Jagiellonów (1572—1587) // Zapiski historyczne. 2004. Z. 1.

**Кяўпа** (Kiaupa) Зігмантас (н. 29.1. 1942, в. Пакяўніс Ігналінскага р-на, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1993). Скончыў Вільнюскі ун-т (1965). З 1973 працуе ў Ін-це гісторыі АН Літвы (з 1991 Ін-т гісторыі Літвы), з 1993 старшы навук. супрацоўнік, у 1993—97 заг. Аддзела гісторыі ВКЛ. Адначасова з 1993 выкладае ва Ун-це Вітаўтаса Вялікага ў Каўнасе, з 1995 дацэнт, з 2003 прафесар. Даследуе гісторыю гарадоў і бюргерскага саслоўя Літвы ў 14—18 ст., палітычную гісторыю ВКЛ у 18 ст., пытанні крыніцазнаўства гісторыі Літвы. З 1996 старшыня рэдакцыйнай калегіі «Штогодніка гісторыі Каўнаса» («Kauno istorijos metrastis») і з 2001 — «Штогодніка гісторыі Літвы» («Lietuvos istorijos metrastis»). Адзін са складальнікаў зборніка *«Інструкцыі для адміністрацыі феадальных уладанняў у Літве XVII—XIX ст.»*.

*Тв.*: «Czasy dobrej pamięci wielkiego księcia Witolda» w handlu litewsko-krzyżackim // Ekspansja niemieckich zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI wieku. Toruń, 1990; Гостиный двор в Вильнюсе // Наш радавод. Гродна, 1991. Кн. 3, ч. 3; Католики и православные в городской общине Вильнюса в конце XIV—начале XVI вв. // Славяне и их соседи: католицизм и православие в средние века. М., 1991; Šiaulių miesto istorija (iki 1940 m.). Šiauliai, 1991 (у сааўт.); Европейские контакты купцов Вильнюса в XV—XVI вв. // Цивилизация Северной Европы: средневековый город и культурное взаимодействие. М., 1992 (з Ю.Кяўпене); Pirmosios Kauno miesto privilegijos // Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. Vilnius, 1992. Kn. 2; Lietuvos istorija iki 1795 metų. Vilnius, 1995 (3 leid. 2000) (з Ю.Кяўпене, А.Кунцявічусам); The Lithuanian Metrica and the lithuanian nobility at the end of the eighteenth century // Lithuanian historical studies. Vilnius, 1996. T. 1; Городской архив времен Великого Княжества Литовского как объект комплексного исследования // Дніпропетровський історико-археографічний збірник. Дніпропетровськ, 1997. Вип. 1; Autonomy of lithuanian cities from the XIVth to XVIIIth c. // The heraldry of Lithuania. Vilnius, 1998. T. 1; Palangos istorija. Klaipeda, 1999 (у сааўт.); The history of Lithuania. Vilnius, 2002; Lietuvos valstybės istorija. Vilnius, 2004.

*Літ.*: Zigmantas Kiaupa: Bibliografijos rodyklė 1973—2001 / Sud. I.Tumelytė ir D.Vilimas. Vilnius, 2002.

**Кяўпене** (Kiaupienė) Юратэ (н. 23.11.1947, г. Вільнюс), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1984). Скончыла Вільнюскі ун-т (1969). У 1969—71 навук. супрацоўнік Музея гісторыі і этнаграфіі Літвы ў Вільнюсе, у 1972—81 малодшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Літвы. У 1981—89 выкладала ў Вільнюскім педагагічным ін-це, дацэнт (1988). З 1989 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Літвы (з 1991 Ін-т гісторыі Літвы), адначасова з 1992 дацэнт Ун-та Вітаўтаса Вялікага ў Каўнасе. Даследуе гісторыю і пытанні гістарыяграфіі ВКЛ. Удзельнічала ў выданні кнігі «Крэўскі акт 14 жніўня 1385 г.» («1385 m. rugpjūčio 14 d. Krėvos aktas». Вільнюс, 2002), падрыхтавала кнігу «Гальяш Пельгрымоўскі. Вялікае пасольства Льва Сапегі ў Маскву 1600—1601 г.» («Elijas Pilgrimovijus. Didžioji Leono Sapiegos pasiuntinybė į Maskvą, 1600—1601 m.». Вільнюс, 2002). Адна са складальнікаў зборніка *«Інструкцыі для адміністрацыі феадальных уладанняў у Літве XVII—XIX ст.»*.

*Тв.*: Kaimas ir dvaras Žemaitijoje XV—XVIII a. Vilnius, 1988; Lietuvos istorija iki 1795 metų. Vilnius, 1995 (3 leid. 2000) (з З.Кяўпам, А.Кунцявічусам); Die litauische Forschung zu den litauisch-deutschen Beziehungen des 15. bis 19. Jahrhunderts // Deutschland und Litauen. Lüneburg, 1995; Das historische Erbe des Grossfürstentums Litauen: Erfolge und Verluste // Litauen: Nachbar im Osten Europas. Köln, 1996; Das Bild des Grossfürstentums Litauen in der Historiographie // Revue Baltique. 1996. № 6; The Grand Duchy of Lithuania in East Central Europe or once again about the Lithuanian-Polish Union // Lithuanian historical studies. Vilnius, 1997. T. 2; Litewskie cechy kultury politycznej szlachty Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI wieku // Kultura Litwy i Polski w dziejach: Tożsamość i współistnienie. Kraków, 2000; «Mes, Lietuva»: Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes bajorija XVI a. (viešasis ir privatus gyvenimas). Vilnius, 2003; К вопросу о купеческой общине Вильнюса в первой половине XVII века // От Древней Руси к России нового времени. М., 2003; Naród polityczny Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI wieku: pojęcie ojczyzny // Łacina jako język elit. Warszawa, 2004.





**Лабанаў-Растоўскі** (Лобанов-Ростовский) Аляксандр Іванавіч [?—26.9(6.10).1677], расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Брат І.І.*Лабанава-Растоўскага*. Князь, стольнік (1640), акольнічы (1676). У 1650—51 ваявода ў Вял. Луках. У 1654—56 есаул у царскім палку, галава дваран і жыльцоў. У 1655 пасланы са Шклова да Бешанковіч разбіць атрад палкоўніка кн. К.Лукомскага, нанёс яму страты і 7.7.1654 заняў Лукомль. Гэта дазволіла рас. арміі, якая знаходзілася пад Віцебскам, працягваць наступленне на З. У 1656 удзельнічаў у прыёме царом паслоў Свяшчэннай Рымскай імперыі ў Полацку. У 1658 прызначаны ваяводам у Тамбоў, у 1659 — у Бранск, адкуль рабіў рэйды супраць войск Рэчы Паспалітай. У 1663 прызначаны на службу ў Смаленск, у 1668 палкавы ваявода ў Сеўску. Пакараны смерцю па невядомай прычыне.

**Лабанаў-Растоўскі** (Лобанов-Ростовский) Іван Іванавіч [?—17(27).4.1664], расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Брат А.І.*Лабанава-Растоўскага*. Князь, акольнічы (1649), баярын (1661). У 1646—47 ваявода ў Вял. Луках. Выконваў дыпламатычныя даручэнні. У чэрв. 1656 удзельнічаў у паходзе з-пад Смаленска на Рыгу. У ліп. 1656 у складзе рас. дэлегацыі па заключэнні *Віленскага перамір'я 1656*. 4.3.1657 прызначаны ваяводам у Вільню. Пасля заключэння саюзу ўкр. гетмана І.Выгоўскага з Рэччу Паспалітай (гл. *Гадзяцкі дагавор 1658*) Л.-Р. прызначаны 11.10.1658 палкавым ваяводам у Смаленск. Пад яго камандаваннем сфарміраваны атрад для барацьбы з укр. казакамі і войскамі ВКЛ у Бел. Падняпроўі. У сак. 1659 войска Л.-Р. пачало аблогу Мсціслава і пасля бітваў з атрадамі С.Кміціча, С.Аскеркі, казакамі І.Нячая і С.Выгоўскага ўзяло горад. У маі 1659 рас. войска на чале з Л.-Р. і С.Д.*Змеевым* падышло да Старога Быхава і 14.12.1659 захапіла горад. Нячай і С.Выгоўскі трапілі ў палон (гл. *Быхава абарона 1659*). У студз. 1661 дзейнічаў супраць татараў у раёне Адоева—Пуціўля. 30.7.1663 прызначаны на службу ў Смаленск.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лабынцаў** (Лабынцев) Юрый Андрэевіч (н. 17.3.1948, Масква), расійскі літаратуразнавец і кнігазнавец, гісторык культуры. Д-р філалагічных навук (1991). Скончыў Вроцлаўскі ун-т (1976). У 1976—86 навук. супрацоўнік аддзела гісторыі кнігі Дзярж. б-кі СССР імя У.І.Леніна. З 1989 старшы, вядучы навук. супрацоўнік, з 1994 дырэктар Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Ін-та славяназнаўства і балканістыкі Рас. АН. Даследуе гісторыю, культуру і л-ру Беларусі 12—20 ст., Беларусь у Еўропе і свеце, гісторыю слав. старадрукаванай кнігі, узаемасувязь слав. літаратур. Апісаў і апублікаваў крыніцы па гісторыі і культуры беларусаў, што захоўваюцца ў розных краінах свету.

*Тв.*: В помощь составителям сводного каталога старопечатных изданий кирилловского и глаголического шрифтов: Метод. указ. Вып. 3. Кирилловские издания Супрасльской типографии. М., 1978; Описание старопечатных изданий кирилловского шрифта. Вып. 15. Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского. М., 1985; Скарынаўскі каляндар. Мн., 1988 (2 выд. Мн., 1990); В глубинном Полесье: (Турово-Пинская земля). М., 1989; Ставшие ее частью. М., 1990; Пачатае Скарынам: Бел. друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. Мн., 1990; «Зерцало жития...»: З літ. спадчыны Францыска Скарыны. Мн., 1991; Книги Франциска Скорини у зібранні Центральної наукової бібліотеки Академії наук УРСР. Київ, 1991 (з І.А.Цыброўскай-Рымаровіч, І.В.Стадніченка); «Напой росою благодати...»: Малітоўная паэзія Кірыла Тураўскага. Мн., 1992; Архіў беларускага адраджэння: (Дакументальныя помнікі бел. царкоўнай і грамадзянскай гісторыі ў зборах Музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні). Мн., 1993; Старая казка Палесся: (Турава-Пінская зямля). Мн., 1993; W mieście zwanym Zabłudowem. Białystok, 1995 (з Л.Л.Шчавінскай); Воссиявший нам на Руси. Гомель; М., 1996; Белорусско-украинско-русская православная книжность межвоенной Польши: Исследования и публикации по материалам экспедиции 1996 г. М., 1999 (з Л.Л.Шчавінскай); Литература белорусов Польши (XV—XIX). Мн., 2003 (з Л.Л.Шчавінскай); Западнобелорусское письменное наследие XVII—XX вв.: (Экспедиционные исследования 2000—2002 г.). Мн., 2004 (з Л.Л.Шчавінскай); Книжное наследие Н.П.Румянцева. М., 2004.

**Лавейка** Стафан Рыгоравіч (?—каля 1596), вальнадумец, відаць, арыянін, якога некаторыя сучаснікі лічылі атэ-

істам і матэрыялістам. З шляхецкага роду ўласнага герба «Котвіца зменёная». Мазырскі падсудак з 1576, суддзя земскі з 1581 і да смерці, войскі каля 1588 (праз некаторы час вярнуўся на пасаду суддзі), паборца ў 1577 і 1589, пасол на сойм 1589 (падпісаў Бендзінскую транзакцыю 18.4.1589 як войскі мазырскі). У 1567 ставіў у войска ВКЛ 3 коннікаў і 2 драбаў. Валодаў маёнткамі Барысавічы (Барысаўшчына), Паташычча, Тульгавічы, Зіновішча і Гарбовічы (пацвярджальны прывілей Жыгімонта Аўгуста ў 1580), у 1591 атрымаў ў пажыццёвае ўладанне частку воласці Анікшты (52 валокі і 13 маргоў). У 1591 Стафан Лозка абвінаваціў Л. ў Трыбунале ВКЛ у тым, што ён не можа займаць пасаду мазырскага земскага суддзі, бо не верыць у Св. Тройцу і бескасць Хрыста, адмаўляе бессмяротнасць чалавечай душы. Зыход справы невядомы. У 1592—95 Л. судзіўся з Лозкам аб размежаванні зямельных уладанняў. Каталіцкі палеміст М.*Лашч* сведчыў: «Нядаўна перад гэтым адбывалася ў Літве на мінулым Віленскім Трыбунале наступнае: шляхта заклікала да адказу аднаго суддзю па імю Лавейка, суддзю ў літоўскім павеце ў Мазыры, таму што ён не верыў, быццам душы з'яўляюцца жывымі, а лічыў, што яны дакладна такія самыя, як і ў жывёл, і не верыў ні ва ўваскрашэнне з памерлых, ні ў судны дзень; да таго ж гаварыў, што свет не створаны, але так стаіць спрадвеку. Маюцца позвы і такія ж запісы, распаўсюджаныя па гарадах Літвы, зыходячы з якіх кожны можа даведацца, што ўяўляюць з сябе гэтыя адмаўляючыя душу нуркі, яны — гэтыя бязбожныя людзі — горшыя за яўрэяў і туркаў». Паводле каталіцкага ідэолага С.Рэшкі, Л. нібыта «з іудзея пераўтварыўшыся ў хрысціяніна, з хрысціяніна ў цвінгліянца і, нарэшце, у атэіста, у стане гэтай сваёй поўнай бязбожнасці памёр, зусім не верачы ва ўваскрашэнне з памерлых. Калі быў пахаваны, на працягу пэўнай колькасці дзён зямля з яго целам раскрылася, так што зноў запоўніць роў былі не ў стане».



Позва С.Р.**Лавейку** ў суд.

У бел. і некаторых замежных выданнях фігуруе як Стафан Лован, што звязана з прыняццем версіі В.М.Бадзянскага, які няправільна прачытаў прозвішча Л. ў архіўным дакуменце. Часам Л. блытаюць з Янам Лавейкам, (памёр да 3.8.1600), мазырскім маршалкам з 1589, што працяглы час судзіўся з Лозкам за сваю пасаду (Лозка, як і Я.Лавейка, атрымаў прывілей на маршалкоўства, але крыху пазней). У 1592 іх справа разглядалася ў гаспадарскім судзе. Лозка быў істцом, але на суд не з'явіўся. У 1594 мазырскім маршалкам прызнаны Я.Лавейка, аднак Лозка і надалей ужываў тытул маршалка.

*Літ.*: Rescius S. [Reszka S.]. De atheismis et phalarismis evangelicorum... Neapoli, 1596. S. 40; Łaszcz M. Recepta na Plastr Czechowica ministra nowokrzczeńskiego przez Szczęsnego Żebrowskiego wydana. Kraków, 1597. S. 51—52; Бодянский О.М. О поисках моих в Познанской публичной библиотеке // Чтения в Императорском обществе истории и древностей Российских. М., 1846. № 1; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 92—99; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI—начало XVII вв.). Мн., 1970; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 100—103.

***Андрэй Радаман.***

**Лагішын** (цяпер гар. пасёлак у Пінскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Пінскім пав. Вядомы з 1495. Дзярж. ўласнасць, з 17 ст. быў цэнтрам нягродавага старасты, якое трымалі Радзівілы. 20.8.1569 і 28.5.1570 атрымаў магдэбургскае права. Меў герб з выявай воўка на ласіных нагах. У 1634 на сродкі А.С.*Радзівіла* пабудаваны мураваны касцёл (не збярогся), дзе быў абраз Найсвяцейшай Панны Марыі, які лічыўся цудадзейным. У сувязі з будаўніцтвам *Каралеўскага канала* Л. перададзены М.К.*Агінскаму*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.



Герб **Лагішына**.

**Лагойск** (цяпер горад, цэнтр Лагойскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., на р. Гайна. Упершыню ўпамінаецца пад 1078. З 1180 цэнтр *Лагойскага княства*. З 1-й чвэрці 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1387 *Ягайла* перадаў Л., якім раней валодаў баярын Вайшвілт, ва ўладанне свайму брату *Скіргайлу*; у той час тут існаваў правасл. манастыр Іаана Прадцечы. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) Л. упамінаецца сярод «літоўскіх» гарадоў. У канцы 14—пач. 15 ст. належаў Вітаўту. З 1413 у складзе Віленскага ваяводства. У 1446 кн. Андрэй Уладзіміравіч (унук Альгерда) запісаў Л. у спадчыну сваёй жонцы Марыі, сыну Глебу і дачцы Аўдоцці (бацька і сын памерлі ў 1457). У 1460—70-х г. Л. выслужыў у вял. кн. Казіміра кн. Аляксандр Чартарыйскі. Яго сыну Сямёну правы ўласнасці на Л. пацвердзілі вял. князі Аляксандр (1496) і Жыгімонт Стары (1508). У 1505 разрабаваны і спалены крымскімі татарамі. У пач. 16 ст. дзякуючы шлюбу Л. перайшоў да *Тышкевічаў*, якія ўладкавалі там сваю рэзідэнцыю. Князёўна Аляксандра Сямёнаўна Чартарыйская, якая валодала паловай Л., ужо ў 1517 упамінаецца як жонка Васіля Тышкевіча; яны ў 1525 набылі другую палову Л. ў сястры Аляксандры — Соф'і. У 1519 і 1534 праз Л. праходзілі рас. войскі. У 1532 Тыш-



Герб **«Лада»**.

кевіч адбудаваў спаленую татарамі замкавую Богаяўленскую царкву; пры ёй быў манастыр. У 1631, калі ў выніку пажару яна згарэла, Ю.В.Тышкевіч пабудаваў царкву ў суседняй в. Сялец, куды перавёў святароў і манахаў з Л. У горадзе існавалі таксама Прачысценская (вядома з 1514), Мікольская, Прабражэнская, Георгіеўская цэрквы. У 1609 ваявода берасцейскі А.Тышкевіч заснаваў драўляны парафіяльны касцёл (згарэў у час ваенных дзеянняў 1654). У 1519, 1535 і 1654 Л. займалі рас. войскі. У 1673 Л. атрымаў прывілей караля Міхала Вішнявецкага на штотыднёвыя таргі і права збору мыта з купцоў. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1708 заняты шведамі, якія разбурылі замак, у час пажару згарэлі Богаяўленская царква і касцёл. У 1752 на месцы замка жамойцкі біскуп А.Тышкевіч пабудаваў новую царкву і заснаваў манастыр базыльян. У 1787 А.Тышкевіч пачаў будаўніцтва мураванага касцёла (асвячоны ў 1793). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu borysowskiego. Wilno, 1847; Самцэвіч В. М. Лагойск: (Менскай акругі) // Наш край. 1928. № 4; Акуліч С., Сасноўскі Б. Лагойск: Гісторыка-эканамічны нарыс. Мн., 1979.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лагойскае княства**, удзельнае княства Полацкай зямлі ў 12—15 ст. Цэнтр — г. *Лагойск*. Не выключана, што першым яго ўладальнікам у 1127 быў Брачыслаў, сын полацкага кн. Давыда Усяславіча, хоць, паводле інш. версіі, ён княжыў у Ізяслаўлі. Непасрэдна лагожскімі князямі Іпацьеўскі летапіс называе Усяслава Мікуліча (1180) і Васільку Валадаравіча. Таму, відаць, Л.к. было адным з удзелаў Менскага княства. Не пазней як у 1-й пал. 14 ст. яно ўвайшло ў ВКЛ, у 2-й пал. 14 ст. належала Войшвілу (паводле адной з версій — сыну *Кейстута*). У 1387 *Ягайла* аддаў Л.к. разам з Троцкім і Полацкім княствамі свайму брату *Скіргайлу*, які фактычна быў яго намеснікам у ВКЛ. У 1392 Ягайла вымушаны быў перадаць уладу ў ВКЛ *Вітаўту*, а той пачаў раздаваць асобныя маёнткі Л.к.: Ганявічы і Корань у 1395 падараваў Віленскаму біскупству, Гасцілавічы — віленскаму ваяводу Манівіду (у 1407 пацверджаны навечна); Коцалі ў канцы 14 ст. — новазбудаванаму касцёлу ў Гайне. Магчыма, да Л.к. належала і Харэцкая вол. у вярхоўях р. Бярэзіна, раздача якой у прыватную ўласнасць адбывалася адначасова. Не пазней як у 1-й пал. 15 ст. з Л.к. вылучыліся маёнткі Астрошыцы, Зазер'е і, відаць, Смалявічы, што належалі пану Судзімонту Доргевічу. Пасля смерці апошняга (1448) спадчыннае права на гэтыя маёнткі пацверджана яго сыну Алехну. У сярэдзіне 15 ст. ад Л.к. заставалася невял. частка з Лагойскам і Гайнай, якая належала кіеўскаму кн. Алельку Уладзіміравічу, а з 1455 — яго малодшаму брату Андрэю Уладзіміравічу. Пасля смерці Андрэя ў 1457 Гайна пакінута ва ўласнасці яго нашчадкаў, а Лагойск вернуты вял. князю і ў 1460 нанова падараваны кн. Аляксандру Чартарыйскаму на правах звычайнага маёнтка.

***Вячаслаў Насевіч.***

**«Лада»,** прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 100 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Валіцкія, Заблоцкія, Завістоўскія, Кладніцкія, Ліпскія, Наскоўскія. У чырвоным полі выява сярэбранай падковы рагамі ўніз, на ёй залаты кавалерскі крыж, па баках сярэбраныя стрэлы наканечнікамі ўніз; клейнод — над прылбіцай з каронай палова каранаванага льва з мячом у правай лапе. Існуюць варыянты герба з блакітным полем, з павернутымі ўверх стрэламі і інш. Вядомы з пач. 15 ст.

**Лазар** Барановіч [каля 1620—3(13).9.1693], дзеяч праваслаўнай царквы на Украіне. Вучыўся ў Кіеўскай брацкай школе, Віленскай акадэміі, Калішскім езуіцкім калегіуме. Пасля прыняцця манаства з пач. 1640-х г. выкладаў у Кіеўскім брацкім калегіуме, з 1650 яго рэктар, ігумен Кіеўскага брацкага манастыра. З-за цяжкіх ваенна-паліт. умоў пакінуў калегіум, у 1652 ігумен Кірылава манастыра, пасля — Купяціцкага і Дзяцелавіцкага каля Пінска. У 1655 або пач. 1656 вывез у Кіеўскі Сафійскі сабор *Купяціцкі абраз Маці Божай*. З 1657 епіскап чарнігаўскі і ноўгарад-северскі (з 1666 архіепіскап). У 1657, пасля смерці кіеўскага мітрапаліта Сільвестра Косава, месцаахоўнік мітрапаліцкай кафедры, садзейнічаў абранню Дыянісія Балабана, ад якога атрымаў незалежнасць і прамое падпарадкаванне канстанцінопальскаму патрыярху. Месцаахоўнік мітрапаліцкай кафедры ў 1659—61, калі Балабан з'ехаў у падначаленыя Польшчы землі. Удзельнічаў у саборы ў Маскве, што асудзіў патрыярха Нікана. Заснаваў у Ноўгарадзе-Северскім друкарню, пераведзеную ў 1679 у Чарнігаў, якая выпусціла больш за 50 рэліг. і літ. кніг. Выдаў зборнікі сваіх казанняў «Меч духоўны» (Кіеў, 1666, 2 выд. 1686) і «Трубы славес прапаведных» (Кіеў, 1674, 2 выд., 1679). Зборнік Л. «Лютня Апалонава» («Lutnia Apollinowa każdey sprawie gotowa», Кіеў, 1671) змяшчае больш за 1000 польскамоўных вершаў на рэліг. і свец-



**Лазар** Барановіч. Мініяцюра «Асвячэнне харугвы» са Служэбніка Лазара Барановіча.

кую тэматыку. Твор Л. «Новая мера старой веры» («Nowa miara starey wiary», 1676) скіраваны супраць трактата езуіта П.Боймы «Старая вера», дзе прапагандавалася уніяцтва.

*Тв.*: Письма. Чернигов, 1865.

*Літ.*: Сумцов Н.Ф. К истории южнорусской литературы семнадцатого столетия. Вып. 1. Лазарь Баранович. Харьков, 1885; Евдокименко В.Ю. Суспільно-політичні погляди і діяльність Лазаря Барановича // З історії вітчизняної філософської та суспільно-політичної думки. Київ, 1959; Шевченко В.І. Філософська зоря Лазаря Барановича. Київ, 2001.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лазука** Барыс Андрэевіч (н. 27. 7.1955, в. Рэпеншчына Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.), беларускі мастацтвазнавец, педагог. Канд. мастацтвазнаўства (1989), дацэнт (1995). Скончыў Віцебскі педагагічны ін-т (1977), дзе пасля выкладаў. У 1996—98 і 1999—2003 працаваў у Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. У 1998—99 прарэктар і заг. кафедры Бел. акадэміі мастацтваў. З 2003 заг. аддзела старажытнабел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Даследуе бел. культуру і мастацтва 17—18 ст., тэарэтычныя праблемы стылю барока.

*Тв.*: Праблемы стылістыкі выяўленчага мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1993. № 3; Параўнаўча-тыпалагічнае вывучэнне беларускага мастацтва эпохі барока // Там жа. 1995. № 2; Гісторыя мастацтваў. Мн., 1996 (2 выд. 2003); Беларускае барока: Тэндэнцыі і напрамкі развіцця // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998; Слоўнік тэрмінаў: Архітэктура, выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Мн., 2000; Гармонія сімвалаў у беларускім барока // Мастацтва. 2003. № 10—11; Беларускае барока: Гісторыка-тэарэтычныя праблемы стылю. Мн., 2001; Пераповы сэнсавых значэнняў у паэтыцы беларускага барока // Веснік Бел. дзярж. ун-та культуры і мастацтваў // 2005. № 4.

**Лазутка** (Lazutka) Станісловас (н. 7.5.1923, в. Байсогала Венгераўскага р-на Новасібірскай вобл., Расія), літоўскі гісторык. Д-р гіст. навук (1974), праф. (1976). Заслужаны дзеяч культуры Літвы (1979). Удзельнік Вял. Айч. вайны. Скончыў Вільнюскі ун-т (1950), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1958). З 1948 выкладчык, у 1959—63 прарэктар, з 1976 праф. кафедры гісторыі Літвы, з 1997 кафедры стараж. гісторыі і сярэдніх вякоў Вільнюскага ун-та. У 1951—54 заг. аддзела навукі і вышэйшых навучальных устаноў ЦК Кампартыі Літвы. Даследуе падзеі 1859—64 у Літве, гісторыю Віленскага ун-та і інш. Кіраўнік групы Вільнюскага ун-та па вывучэнні і выданні Літоўскіх Статутаў і Літоўскай Метрыкі (1968—92). Адзін з аўтараў сучасных акадэмічных выданняў Статута ВКЛ 1529, а таксама кніг Метрыкі ВКЛ (кнігі судовых спраў № 4, 6, 8, 10). Нац. прэмія Літвы 1979, 1995.

*Тв.*: Революционная ситуация в Литве, 1859—1862 гг. М., 1961; I Литовский Статут — феодальный кодекс Великого княжества Литовского. Вильнюс, 1973; Привилегия евреям Витаутаса Великого 1388 года. М.; Иерусалим, 1993 (з Э.Гудавічусам); Lietuvos Statutai, jų kūrėjai ir epocha. Kaunas, 1994; Leonas Sapiega: (Gyvenimas, valstybinė veikla, politinės ir filosofinės pažiūros). Vilnius, 1998; Літоўскія статуты (1529, 1566, 1588), іх стваральнікі і эпоха: Пер. з літ. // Край=Kraj: Polonica—Albaruthenica—Lithuanica. 2001. № 1—2; Pirmasis Lietuvos Statutas (1529). Vilnius, 2001 (з І.Валіканітэ, Э.Гудавічусам); Первый Литовский Статут (1529 г.): Пер. з літ. Вильнюс, 2004 (з І.Валіканітэ, Э.Гудавічусам); Леў Сапега: Жыццё, дзяржаўная дзейнасць, палітычныя і філасофскія погляды: Пер. з літ. Магілёў, 2004 (Край=Kraj: Polonica—Albaruthenica—Lithuanica. 2004. № 1—2).

*Літ.*: Vasiliauskienė A. Stanislovas Lazutka: Bibliografija. Vilnius, 1984.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Лакотка** Аляксандр Іванавіч (н. 25. 1.1955, в. Кузьмічы Дзятлаўскага р-на), беларускі архітэктар, гісторык архітэктуры, этнограф. Чл.-кар. НАН Беларусі (2003), д-р гіст. навук (1993), д-р архітэктуры (2001), праф. (2003), акадэмік Бел. акадэміі архітэктуры (2003). Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1977). З 1978 заг. аддзела, у 1989—95 нам. дырэктара Бел. дзярж. музея нар. архітэктуры і побыту (аўтар архітэктурна-планіровачнага вырашэння яго забудовы), з 1982 заг. майстэрні Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та, з 1995 нам. дырэктара і заг. аддзела архітэктуры, з 2003 дырэктар Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Аўтар шматлікіх праектаў рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, канцэпцыі рэстаўрацыі і прыстасавання гіст. прадмесцяў гарадоў. Навук. працы па гісторыка-тэарэтычных праблемах архітэктуры.

*Тв.*: Общие и региональные особенности народного жилища Белоруссии (середина XIX—XX вв.). Мн., 1985; Сцежкамі дзядоў. Мн., 1986 (з С.В.Барысам); Белорусское народное зодчество. Середина XIX—XX в. Мн., 1991; Сілуэты старога Мінска: Нарысы драўлянай архітэктуры. Мн., 1991; Беларускае народнае дойлідства (XIX—сярэдзіна XX ст.). Мн., 1993; Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994; Пад стрэхамі прашчураў. Мн., 1995; Беларускі дзяржаўны музей-запаведнік «Менка». Мн., 1995 (з Г.А.Ткацэвічам); Дойлідства. Мн., 1997 (Беларусы. Т. 2); Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999; Беларусы: Дойлідства. (Канцэпцыя гістарычнага феномену беларускай архітэктуры). Мн., 2001; Архитектура европейских синагог. Мн., 2002; Историко-культурные регионы Беларуси. Мн., 2002; Драўлянае сакральна-манументальнае дойлідства Беларусі. Мн., 2003.

**лан** (лац. laneus, ням. Lehen лен, мерніцкі шнур), у сярэдневяковай Еўропе поўны сялянскі надзел, абкладзены павіннасцямі; зямельная мера. У асобных краінах выкарыстоўваліся нац. назвы Л. (манс у Францыі, гайда ў Англіі, гуфа ў Германіі, бол у Даніі, гак у Інфлянтах і інш.). Пры вызначэнні Л. прымаліся пад увагу якасць глебы, сістэма земляробства, прылады працы, характар угоддзяў і інш., а таксама тып уласнасці на зямлю. Складаныя часткі Л. вымяраліся геаметрычнымі мерамі (бонар, акр, стаянне, прут, шнур, верв) або агратэхнічнымі мерамі (морг, шэфельсат, загон, гоня, карэц, бочка, гарнец). У Польшчы Л. вядомы з 13 ст., калі пашырылася ўнутранае асваенне зямель, заснаванне паселішчаў паводле нямецкага (магдэбургскага) права і ўвядзенне чыншу ў вёсках. Спачатку Л. адпавядаў пэўнай плошчы пасеву збожжа або колькасці зямлі, апрацаванай запрэжкай за дзень. Першыя віды геаметрычнага вызначэння Л. (франконскі, тэўтонскі) датуюцца 14 ст. Яны залежалі ад даўжыні вымяральных прылад—локцяў, ляскі (прута, палкі), шнура. Старапольскі (каралеўскі) Л. вядомы з 16 ст., складаўся з 24 стаянняў (каля 48 га). Тэўтонскі Л. вымяраўся 15-локцевай палкай, меў памеры 180 x 4050 локцяў і падзяляўся на 18 стаянняў. У Малой Польшчы яго вымяралі локцем у 58,6 см і плошча Л. складала каля 25 га. Франконскія Л. вымяралі палкай у 14,75 локця: малы франконскі меў памеры каля 23 га, вял. франконскі — каля 29 га. Холмскі



Л. (холмская валока) з'явіўся на мяжы 14—15 ст., пры шырыні ў 1 шнур (37,5 локця) меў 1 мілю (13 500 локцяў) даўжыні; пазней ён выкарыстоўваўся ў Каралеўскай Прусіі і Мазовіі і складаўся з 30 моргаў, памераных прутом у 7,5 локця даўжыні (1 морг—10 х 30 прутоў), пры гэтым локаць меў даўжыню 56,7 см, а плошча Л. была 16,8 га. У 16 ст. ў час валочнай памеры ў ВКЛ атрымала пашырэнне валока, якая генетычна паходзіла ад рыжскага Л., вядомага з 13 ст. (складаўся з 30 моргаў па 400 квадратных прутоў кожны), а таксама холмскі Л. У 16—17 ст. у Рэчы Паспалітай у сувязі з новай арганізацыяй абкладання павіннасцямі дзярж. зямель узніклі Л. рэвізорскі (роўны 3 холмскім), выбранецкі (пры стварэнні каралём Стафанам Баторыем выбранецкай, або ланавай, пяхоты, гл. *Выбранцы*), гібернавы (роўны 1,5 тэўтонскага, выкарыстоўваўся пры вызначэнні гіберны—дзярж. падатку пры расквартараванні войск у каралеўшчынах), польскі (з 12 стаянняў, каля 12 га), сялянскі, або кмецкі (з 288 загонаў, каля 6 га, выкарыстоўваўся пры вызначэнні павіннасцей). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Л. выкарыстоўваўся разам з новымі зямельнымі мерамі, у т.л. дзесяцінай у Рас. імперыі.

*Літ.*: Dunin-Wąsowicz A. Pomiary gruntu w Koronie w XVI—XVIII wieku. Warszawa, 1994.

***Ганна Дунін-Вансовіч.***

**Ланаа**, Ланyа (Lannoy) Жыльбер дэ (1386—22.4.1462), бургундскі падарожнік, дыпламат, мемуарыст. Паходзіў са страж. французскага роду, аселага ў Фландрыі. З 13 гадоў вёў жыццё «дасканалага» рыцара: удзельнічаў у турнірах, крыжовых паходах, шматлікіх войнах і міжусобіцах. Шмат падарожнічаў (Германія, Данія, Іспанія, Сірыя, Св. Зямля). Выконваў дыпламатычныя даручэнні розных манархаў. У 1413—14 і 1421 здзейсніў 2 падарожжы па Усх. Еўропе. 1-е адбылося пасля яго ўдзелу ў паходзе крыжакоў на Польшчу і пралягала праз ВКЛ па маршруце Дынабург—Вільня—Трокі—Коўна—Мемель. Сустракаўся з вял. кн. Вітаўтам. У час 2-га падарожжа выконваў ролю пасла англійскага караля Генрыха V да Ягайлы, Вітаўта, візантыйскага імператара Мануіла II з утапічнай мэтай стварыць шырокую кааліцыю дзяржаў на чале з Англіяй для крыжовага паходу супраць асманаў. Праехаў праз Падолле, у Камянцы зноў сустракаўся з Вітаўтам, прысутнічаў пры прыняцці ім пскоўскага і наўгародскага пасольстваў. Атрымаў ад Вітаўта каштоўныя падарункі, ахоўныя лісты, даручэнні да татарскага хана, стаўленіка Вітаўта. У дзённіках шмат каштоўных звестак па гісторыі ВКЛ, у т.л. этнаграфічнага зместу. Адзначыў наяўнасць у жыхароў ВКЛ «асобнай» мовы і існаванне 12 епархій. Як католік, папракаў Вітаўта за сувязь з гусітамі, парушэнне посту і г.д. Засведчыў моц і ўплыў ВКЛ, яго гегемонію на прасторы ад Ноўгарада да Крыма. Місія Л. падвяла рысу пад доўгім перыядам насцярожана-варожага стаўлення да ВКЛ як да дзяржавы «язычнікаў» і садзейнічала распаўсюджванню ведаў аб ёй у Зах. Еўропе.

*Тв.*: Oevres de Ghillebert de Lannoy. Luvain, 1878.

*Літ.*: Путешествия и посольства господина Гилльбера де Ланнуа... Пер. с пол. // Зап. Одесского о-ва истории и древностей. Одесса, 1853. Т. 3; Емельянов. Путешествия Гилльбера де-Ланноа в восточные земли Европы в 1413—14 и 1421 г. // Университетские известия. Киев, 1873. № 8; Белы А. Пад крыжом Святога Георгія // Падарожнік. 1996. № 2; Gilbert de Lannoy i jego podróże // Materyały do dziejów polskich. Poznań, 1847.

***Алесь Белы.***

**ланавае**, зямельны падатак у ВКЛ. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст., як і ў Польшчы, Л. было штогадовым падаткам з землеўладальнікаў ў памеры 1 злоты з *лана* (валокі). Соймы 1591 і 1593 устанавілі Л. ў памеры паловы звычайнай стаўкі (15 грошаў). У 1627—28 для ВКЛ ухвалены збор па 6 Л. штогод. За часы праўлення Жыгімонта III (1587—1632) у ВКЛ прызначаны збор 68 Л., пры Уладзіславе IV (1632—48) збіраліся 37 Л. Адно Л. з ВКЛ складала каля 100 тыс. злотых. У пазнейшы час Л. заменена на інш. падаткі.

*Літ.*: Filipczak-Kocur A. Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587—1648. Wrocław, 1994.

**лантвойт**, лентвойт, лянтвойт, службовая асоба ў гарадах ВКЛ, якія мелі магдэбургскае права; намеснік *войта*. Выконваў даручэнні войта, у час адсутнасці войта — яго абавязкі. Прызначаўся войтам або ўладальнікам горада, у 16—17 ст. мяшчанства некаторых гарадоў (Магілёў, Пінск, Берасце) дамаглося права выбіраць Л.

**Ланчыцкі** (Łęczycki) Даніэль (Даніэль з Лянчыцы; каля 1530, Польшча — каля 1600), друкар. Вучыўся ў Кракаве. Выдаваў кнігі на польскай і лацінскай мовах. З 1558 працаваў у друкарні ў Пінчаве (Польшча). У 1562 пераехаў у Нясвіж, дзе ў друкарні Кавячынскіх выпусціў 11 кніг, у т.л. некалькі палемічных прац Гжэгаша Паўла (1564), Новы запавет (1564, 1570) і Катэхізіс (1564) С.*Буднага* (гл. *Нясвіжская друкарня*). У 1571—72 друкаваў кнігі ў Заслаўі. Па запрашэнні Я.Кішкі пераехаў у Лоск, дзе кіраваў *Лоскай друкарняй*, выдаў шэраг кніг. Супрацоўнічаў з Будным, які ў 1573 пераехаў у Лоск. З 1574 у Вільні: працаваў у друкарні М.К.*Радзівіла* Сіроткі (выдаў кнігу А.*Рымшы* «Дзесяцігадовая аповесць ваенных гадоў К.Радзівіла»), у віленскіх антытрынітарыяў, у акадэмічнай друкарні езуітаў. Выпусціў каталіцкі катэхізіс П.Цанісія на літ. і латышскай мовах (1595). Калі дазволілі сродкі, адкрыў уласную друкарню (1596—1600). Да рэлігіі ставіўся індыферэнтна, таму выдаваў кнігі і католікаў і пратэстантаў. Яго сын М.*Ланчыцкі* стаў відным дзеячам каталіцкай царквы.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959; Анушкин А.И. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Немировский Е.Л. Иван Федоров в Белоруссии. М., 1979;.

***Марат Батвіннік.***

**Ланчыцкі** Мікалай (10.12.1574, каля Нясвіжа—30.3.1653), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, публіцыст. Сын Д.*Ланчыцкага*. Вучыўся ў школе пры Віленскім кальвінскім зборы, Віленскай акадэміі. У 1592 уступіў у ордэн езуітаў. У 1593 з'ехаў у Рым, дзе да 1601 вывучаў рыторыку, філасофію і тэалогію. З 1601 святар. У 1601—06 працаваў у цэнтр. архіве ордэна езуітаў, удзельнічаў у працы над 1-м томам гісторыі ордэна М.Арландзіні. У 1607—09 выкладаў Свяшчэннае Пісанне, палемічную тэалогію і стараж.-яўр. мову ў Віленскай акадэміі, адначасова прэфект Папскай і дыяцэзіяльнай семіна-



**Ланчыцкі** М. Невядомы мастак. 17 ст.

рый. У 1609—14 выкладаў палемічную тэалогію ў Львове, адначасова прэфект будаўніцтва калегіума. У 1615 удзельнічаў у 7-й генеральнай кангрэгацыі ордэна ў Рыме, да 1617 застаўся ў цэнтр. архіве езуітаў для ўпарадкавання лістоў і распараджэнняў папярэдніх генералаў ордэна. У 1617—20 рэктар калегіума ў Калішы, у 1620—21 выкладаў у Познані, у 1622—31 рэктар калегіума ў Кракаве (у 1625—30 быў у Рыме). З 1631 кіраваў Літ. правінцыяй ордэна. З 1635 выкладаў у навучальных установах Чэшскай правінцыі. У 1643—49 выкладаў кананічнае права ў Нясвіжы. У 1645—46 удзельнік 8-й генеральнай кангрэгацыі ордэна ў Рыме. З 1649 духоўнік у Браневе, а з 1652 — у Коўне, дзе і памёр. Вызначаўся моцным аскетызмам. Аўтар маральна-рэліг. твораў, напісаных пераважна на лац. мове. Яго найб. вядомая кніга «Аб праведнай любові да Бога і небажыхароў» («De piis erga Deum et coelites affectibus») была перакладзена на нямецкую, польскую, французскую, англійскую і чэшскую мовы. У творы «Размова за рускі саюз» («Discursus pro Ruthenis unitis») падтрымаў планы уніятаў на саюз з правасл. царквой і, хоць быў абскарджаны ў Рыме ў спрыянні праваслаўным, дамогся прыняцця кангрэгацыяй Літ. правінцыі рашэння аб забароне прапаведнікам і выкладчыкам выступаць супраць правасл. догматаў і літургіі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лапа** (Лаппо) Іван Іванавіч [29.8(10.9).1869, г. Царскае Сяло, Расія — 23.12.1944], расійскі гісторык. Д-р гісторыі (1911), праф. ардынарны (1911). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1892), дзе пасля выкладаў як прыват-дацэнт. З 1905 праф. Юр'еўскага, з 1918 Варонежскага ун-таў. У 1919 узначальваў Варонежскі губернскі архіў. З 1920 у эміграцыі, з 1921 у Празе, дзе з 1923 праф. Рус. нар. ун-та. З 1933 прыват-дацэнт Каўнаскага, у 1939—41 Вільнюскага ун-таў, у 1942 малодшы асістэнт Ін-та права ў Вільнюсе. Даследаваў пераважна гісторыю ВКЛ 2-й пал. 16 ст., заключэнне Люблінскай уніі 1569 і яе наступствы. Лічыў, што і пасля заключэння уніі 1569 ВКЛ захоўвала шырокую аўтаномію. Падрыхтаваў і выдаў «Полацкую рэвізію 1552 года» (1905), 2 тамы Метрыкі ВКЛ (Русская историческая библиотека. 1910, т. 27; 1914, т. 30), Статут ВКЛ 1588 (1934—38).

*Тв.*: Подкоморский суд в Великом княжестве Литовском в конце XVI и начале XVII века // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1899. № 8; Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586): Опыт исследования политического и общественного строя. Т. 1. СПб., 1901; Гродский суд в Великом Княжестве Литовском в XVI столетии // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1908. № 1; Великое княжество Литовское во второй половине XVI ст.: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Литовский статут в Московском переводе-редакции. Юрьев, 1916; Западная Россия и ее соединение с Польшею в их историческом прошлом: Ист. очерки. Прага, 1924; Идея единства русского народа в Юго-Западной Руси в эпоху присоединения Малороссии к Московскому государству. Прага, 1929; Bandymas paversti lenkui Vilniaus vyskupo katedra XVI a. pabaigoje. Kaunas, 1930; Iš vyriausiuju Lietuvos suvažiavimų istorijos XVI amž. Kaunas, 1931; 1577 m. suvažiavimas rytų Vilkaviškyje. Kaunas, 1932; Lietuva ir Lenkija po 1569 m. Liublino unijos. Kaunas, 1932; Литовский Статут 1588 года. Т. 1—2. Kaunas, 1934—38.

*Літ.*: Ragauskas A. Istorikas Ivanas Lappo (1869—1944) ir Lietuva // Lietuvos istorijos metraštis. 1993 m. Vilnius, 1994; Miakiszew W. Iwan I. Łappo (1869—1944) — dwa wymiary życia uczonego // Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego. Lublin, 2005.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лапацінскі** (Łopaciński) Эўзэбіюш (1.3.1882, Кіеў—19.4.1961), гісторык мастацтва, бібліяфіл, калекцыянер. З роду *Лапацінскіх*. Вучыўся ва ун-тах Кракава і Дэрпта. Шмат гадоў падарожнічаў па Еўропе (Францыя, Швейцарыя, Італія). З 1906 жыў у маёнтку Лявонпаль на Полаччыне, з 1911 у Варшаве, дзе працаваў у аддзеле рукапісаў Б-кі Красінскіх. Сабраў вял. калекцыю малюнкаў, медалёў і карцін, частка якой загінула ў 1914 у час 1-й сусветнай вайны. У міжваенны час жыў пераважна ў Вільні, працаваў у Дзярж. архіве. Сабраў багатую калекцыю дакументаў па гісторыі мастацкіх помнікаў Вільні, Беларусі, пра род Лапацінскіх, сям'ю А.Міцкевіча, звесткі з якіх друкаваў у выданнях Таварыства сяброў навук у Вільні. Гал. праца — «Матэрыялы да гісторыі артыстычнага рамяства ў Вялікім княстве Літоўскім (XVI—XIX ст.)» («Materiały do dziejów rzemiosła artystycznego w Wielkim Księstwie Litewskim od XVI do XIX w.», Варшава, 1946). Аўтар публікацый па гісторыі кірмашоў, гандлю, сельскай гаспадаркі Віленшчыны. Пасля 2-й сусветнай вайны пераехаў у Варшаву, працаваў у Дзярж. ін-це гісторыі мастацтва і інвентарызацыі помнікаў пры Гал. дырэкцыі музеяў і аховы помнікаў.

*Тв.*: Nieznane dane archiwalne i wiadomości źródłowe do historii sztuki Wilna i b. W.X.Litewskiego od XVII do początków XIX w. // Prace i materjały sprawozdawcze sekcji historji sztuki towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie. Wilno, 1938/39. T. 3; Rysunki sepią A.Domańskiego w inwentarzu Kobryńskim z r. 1742 // Там жа; Zamek w Białej Podlaskiej: Materiały archiwalne // Biuletyn historii sztuki. 1957. № 1.

***Людміла Хмяльніцкая.***

**Лапацінскія**, шляхецкі род герба «Любіч». Паводле родавага падання, паходзяць з маёнтка Лапаціна Цеханоўскай зямлі (Мазовія). У 15 ст. Багдан з Лапаціна атрымаў ад князёў Мсціслаўскіх зямельныя ўладанні пад г. Мсціслаў, дзе яго сын Юзаф заснаваў маёнтак Лапаціна. Найб. вядомыя:

Ян Дамінік (9.5.1708, мяст. Лапаціна Мсціслаўскага ваяв.—11.1.1778), сын Лявона. Вучыўся ў семінарыі місіянераў у Варшаве. Пробашч у Крожах, віленскі канонік з 1732 і схаластык з 1753, вял. духоўны сакратар ВКЛ у 1755—62, біскуп жамойцкі з 1762. Быў прыхільнікам Сапегаў і разам з імі ў час вайны за польскую спадчыну знаходзіўся ў 1733 пры каралю Станіславе Ляшчынскім у Караляўцы, быў каралеўскім капеланам. У 1740 ра-



зам з братам Ігнатам у свіце віленскага каад'ютара Ю.С.Сапегі ў падарожжы па Еўропе. Пасля капелан саюзніка Сапегаў троцкага, потым віленскага кашталяна М.Масальскага, выхавацель яго сына Ігната. Заставаўся кліентам Сапегаў,зблізіўся з іх саюзнікамі Чартарыйскімі. Пасля разрыву М.А.Сапегі з Чартарыйскімі ўстанавіў кантакты з вял. гетманам ВКЛ М.К.Радзівілам. Далей дзейнічаў у рэчышчы праграмы прыдворнай партыі Ю.Мнішака і яго саюзнікаў Радзівілаў. У перыяд ахаладжэння паміж Мнішакам і Радзівілам быў фактычным кіраўнікам каралеўскай партыі ў ВКЛ. У 1764 удзельнічаў у абранні каралём Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Супрацоўнічаў у рэалізацыі каралеўскіх планаў рэформ. Потым прыхільна паставіўся да *Барскай канфедэрацыі*, але адкрыта яе не падтрымаў. У 1771 перад пагрозай арышту рас. войскамі выехаў у Прусію, пасля вярнуўся. Меў мастацкую галерэю. Аўтар рэліг. твораў. Пераклаў кнігі Ланглe дзю Трэснуа «Збор кароткай касцельнай гісторыі» і Верто д'Абера «Гісторыя партугальскай рэвалюцыі» (Вільня, 1753).

Мікалай Тадэвуш (20.5. 1715, мяст. Лапаціна Мсціслаўскага ваяв. — 4.1.1778), сын Лявона. Мсціслаўскі крайчы з 1739, падчашы з 1742, войскі з 1744, інстыгатар ВКЛ у 1750—61, мсціслаўскі староста ў 1757—67, вял. пісар ВКЛ у 1764—77, ваявода берасцейскі з 1777. Шмат разоў быў дэпутатам Трыбунала ВКЛ і паслом на соймы. З маладых гадоў з'яўляўся кліентам Сапегаў, спачатку ў свіце маршалка ВКЛ А.П.Сапегі, а потым яго сына віленскага каад'ютара Ю.С.Сапегі. З апошнім знаходзіўся ў 1730-х г. пры каралю Станіславе Ляшчынскім у Гданьску і Караляўцы. У час змагання паміж Сапегамі і Радзівіламі як актыўны сапежынскі прыхільнік атрымаў у 1740 пасаду пісара Трыбунала ВКЛ. Дапамагаў Сапегам як трыбунальскі суддзя і ў Трыбунале ВКЛ 1743. Арганізаваў абранне ў 1753 на элекцыйным сойміку полацкім ваяводам А.Сапегі. Быў адданым прыхільнікам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1776 стаў маршалкам Трыбунала ВКЛ. Сабраў значную б-ку ў Чурылавічах у Полацкім ваяв., якія перайменаваў у гонар бацькі ў Лявонпаль.

Ігнат Блажэй Станіслаў (2.2.1722, мяст. Лапаціна Мсціслаўскага ваяв.—16.12.1776), сын Лявона. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Мсціславе. Працягваў навучанне ў Караляўцы і ў піяраў у Вільні і Варшаве. Мсціслаўскі земскі сурагатар у 1746—59, браслаўскі гродскі суддзя з 1753, скарбовы пісар ВКЛ з 1761, браслаўскі падстараста з 1763 г. Шматразова прымаў удзел у соймах і Трыбуналах ВКЛ. У час вайны за польскую спадчыну 1733—36 разам з братам Мікалаем Тадэвушам знаходзіўся пры каралю Станіславе Ляшчынскім у Караляўцы. У 1736 вярнуўся ў ВКЛ, знаходзіўся ў шэрагах сапежынскай кліентэлы. Асн. яго грамадская дзейнасць праходзіла ў Браслаўскім пав. Мясцовым соймікам абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ 1756 (стаў трыбунальскім падскарбіем). Надалей быў звязаны з Сапегамі. Пасля смерці падканцлера ВКЛ М.А.Сапегі ў 1760 устанавіў кантакты з Радзівіламі. На прарадзівілаўскім Трыбунале ВКЛ 1763 абраны скарбовым маршалкам. У час бескаралеўя 1763—64 выступаў за прымірэнне Чартарыйскіх з вял. каронным гетманам Я.К.Браніцкім. Быў вядомы як аўтар літ. твораў, а не грамадскі дзеяч. Напісаў мемуары, рэліг. творы, сатырычную камедыю «Перакіньчык». Пераклаў з лацінскай на польскую мову трагедыі езуіта А.Кляўса (Вільня, 1751).

Эўзэбіюш Мар'ян Ян Станіслаў (1.3.1882, Кіеў—19.4.1961), гл. *Лапацінскі* Э.

*Літ.*: Dyariusz życia Ignacego Łopacińskiego // Biblioteka Warszawska. 1855. T. 3; Sapiehowie: Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 3. Petersburg, 1894; Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformie Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1—2. Warszawa, 1986; Dom Sapieżyński. Warszawa, 1995; Czeppe M. Kamaryla pana z Dukli: Kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha, 1750—1763. Warszawa, 1998; Мацук А. Шляхта ВКЛ у дзяржаўных структурах Мсціслаўскага ваяводства з 1721 па 1764 гг. // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць. Магілёў, 2002. Т. 2.

***Андрэй Мацук.***

**Лапуцкі** Станіслаў (?—кастр. 1669), расійскі мастак. Смаленскі шляхціц, у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* трапіў у палон. У 1656 прыняты на працу ў Аружэйную палату ў Маскве. Выконваў адказныя даручэнні. Пісаў партрэты цара Аляксея Міхайлавіча (1657, 1661), займаўся разьбой, залачэннем, серабрэннем. Рабіў чарцяжы жалезных заводаў (1661). У 1663—64 выканаў вял. карту Расіі, ВКЛ, Малой Расіі і шведскіх уладанняў у Прыбалтыцы. Размаляваў вял. колькасць (некалькі дзесяткаў) сцягоў для армейскіх палкоў, Іншаземнага прыказа, прыказа Вял. палаца і інш., з якіх захаваўся адзін з выявай цара Канстанціна (зберагаецца ў Аружэйнай палаце). Пасля заключэння *Андросаўскага перамір'я 1667* атрымаў права вярнуцца на радзіму, але застаўся ў Маскве і быў узнагароджаны. У 1669 рабіў размалёўкі (царскія і іншаземныя гербы) у Каломенскім палацы.

**Ласіцкі** (Lasicki) Ян (каля 1534, в. Ласіцы Сахачоўскага пав. Раўскага ваяв., Польшча—пасля 1599), гісторык, бібліёграф, рэлігійны пісьменнік. Паходзіў з дробнай мазавецкай шляхты. Кальвініст. У 1556—61 вучыўся ў гімназіях і ун-тах Страсбурга, Жэневы, Лазаны, Цюрыха, Падуі, вандраваў па Швейцарыі, Францыі, Нідэрландах, Англіі. У 1581 вярнуўся ў Рэч Паспалітую і паступіў на службу да кашталяна менскага Я.Я.Глябовіча выхавацелем яго дзяцей, жыў у Вільні і Заслаўі. У 1582 выдаў у Шпаеры (Германія) зборнік прац розных аўтараў «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў і татараў» («De Russorum, Moscovitarum et Tartarorum religione, sacrificiis, nuotiarum funerum ritu», назва запазычана з трактата П.*Одэрборна*), у які ўвайшоў і арыгінальны твор Л. Апісаў нар. адзенне, стравы, абрады беларусаў і літоўцаў, архітэктуру Вільні, Полацка, бел. вёсак; крытычна ставіўся да пэражыткаў язычніцтва, забабонаў, неадукаванасці насельніцтва ВКЛ. У рэлігійнай палеміцы выступаў як супраць каталіцкай рэакцыі (у 1584 бараніў А.*Волана* ад П.*Скаргі*), так і супраць радыкальных пратэстанцкіх плыней (асуджаў антытрынітарыяў, Ф.Соцына). Апошнія звесткі пра Л. паходзяць з Заслаўя (ліп. 1599). Пасмяротна выйшаў яго твор «Пра багоў жамойтаў, ін-

шых сарматаў і несапраўдных хрысціян» («De diis Samogitarum, caeterorumque Sarmatarum...», Базель, 1615) — першы сістэматычны выклад язычніцкіх вераванняў балтаў. Аўтар гіст. твораў «Гісторыя пра паходжанне і дзеі чэшскіх братоў» («Historia de origine et rebus gestis Fratrum Bohemicorum», 1568, папраўленая версія 1585, у 1649 выдадзена толькі апошняя, 8-я частка, рэшта загінула), «Гданьскі...» («Clades Dantiscanorum», 1577, пра перамогу пад Гданьскам войск Стафана Баторыя), «Гісторыя пра ўварванне палякаў у Валахію» («Historia de ingressu Polonorum in Valachiam», Франкфурт, 1578; пра няўдалы паход на Малдову 1572), «Пра пачатак панавання Стафана» («De initio regiminis Stephani», Базель, 1615), «Пра гісторыю Францыі» («De rebus gestis Franciae», 1571, засталася ў рукапісе, які загінуў)

*Тв.*: Польск. пер.: Historia wtargnięcia Polaków na Wołoszczyznę. Wilno, 1855; O bogach Żmudzinów i innych Sarmatów // Dziennik Wileński. 1823. T. 1, 3.

*Літ.*: Издано в 1582 г. // Белорусский «экватор». 2 изд. Мн., 1988; Barycz H. Jan Łasicki: Studium z dziejów polskiej kultury naukowej XVI w. Wrocław etc., 1973.

***Алесь Белы.***

**Ласкоў** Іван Антонавіч (19.6.1941, г. Гомель—2.7.1994), паэт, празаік, перакладчык, крытык. Скончыў БДУ (1964), Літ. ін-т у Маскве (1971). З 1971 у Якуціі, працаваў у газ. «Молодежь Якутии», Якуцкім кніжным выдавецтве, часопісе «Полярная звезда». Пісаў на бел. і рус. мовах. Літ. спадчына вызначаецца жанравай разнастайнасцю: вершы і паэмы, апавяданні і аповесці, нарысы, эсэ, артыкулы, рэцэнзіі. Выразнасць грамадзянскай пазіцыі выяўляецца ў роздуме над гісторыяй і сучаснасцю, у заклапочанасці лёсам роднай зямлі і яе насельнікаў. У апошнія гады жыцця напісаў шэраг артыкулаў, у якіх на аснове этымалагічнай тыпалогіі, вылучэння адпаведнікаў у мовах розных народаў распрацоўваў гіпотэзу пра угра-фінскія карані ўсх.-славян, прыйшоў да высновы, што літва не была балцкім племем.

*Тв.*: Племя пяці родаў: Летапісная літва: сваяцтва і лёс // Літаратура і мастацтва. 1989. № 33; Нашчадкі таямнічае літвы // Полымя. 1991. № 8; Да пытання аб этнагенезе беларусаў // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1992. Кн. 2; Дагістарычныя блуканні: Літва і Жамойць // Літаратура і мастацтва. 1993. № 18; Жамойцкі тупік // Там жа. 1993. № 37

***Любоў Гарэлік.***

**Ластоўскі** Вацлаў Юстынавіч [27.10(8.11).1883, б. засценак Калеснікаў Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н—23.1.1938], беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец. Чл.-кар. Укр. акадэміі грамадазнаўства ў Празе (1926), акадэмік АН Беларусі (1928). У 1904—05 у Пецярбургу, слухаў лекцыі ва ун-це. З 1906 у Рызе, дзе займаўся самаадукацыяй, далучыўся да мясцовага бел. нац.-культ. руху. У 1909—14 рэдакцыйны сакратар «Нашай нівы». Рэдагаваў часопісы «Саха» (1912), «Беларускі сцяг» (1922), газету «Гоман» (1916—17). У 1918—19 чл. Віленскай бел. рады, у сак. 1918 кааптаваны ад яе ў склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Удзельнічаў у абвяшчэнні 25.3.1918 незалежнасці БНР. У ліст. 1918 увайшоў у склад Літ. Тарыбы. У канцы 1918 узначаліў Бел. прадстаўніцтва пры Літ. Тарыбе, потым бел. аташэ пры літ. пасольстве ў Берліне. З 1919 чл. Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р). Яе прыхільнікі ў снеж. 1919 стварылі Нар. Раду БНР, у якой Л. ўзначаліў Кабінет Міністраў. У 1920 пераехаў у Рыгу, потым у Коўна. У 1923 падаў у адстаўку з пасады прэм'ер-міністра. Працаваў у Міністэрстве бел. спраў у Літве, выдаваў час. «Крывіч» (1923—27), надрукаваў некалькі падручнікаў. Узначальваў «Камітэт 400-летняга юбілею беларускага друку: 1525—1925» (разам з К.Дуж-Душэўскім, А.Ружанцовым). У 1927 пераехаў у БССР. Працаваў дырэктарам Бел. дзярж. музея, заг. кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце. З 1927 правадзейны член Інбелкульта, акадэмік (1928) і неадменны сакратар Бел. АН (1928—29). Рэдагаваў «Працы кафедры этнаграфіі», працаваў у «Камісіі жывой беларускай мовы», уваходзіў у «Камісію па ахове помнікаў старасветчыны ў БССР». У 1930 пазбаўлены звання акадэміка, арыштаваны, у 1931 высланы на 5 гадоў у Саратаў. Працаваў заг. аддзела рэдкіх рукапісаў б-кі Саратаўскага ун-та. Паўторна арыштаваны ў 1937 і прыгавораны да расстрэлу. Па 1-м прыгаворы рэабілітаваны ў 1988, па 2-м — у 1958.

Друкаваўся з 1909 (псеўд. Власт, Юры Верашчака, Арцём Музыка, Сваяк, Пагашчанін, Ю.Сулімірскі і інш.). У працы «Кароткая гісторыя Беларусі» (Вільня, 1910; 2 выд. Мн., 1992) канцэптуальна абагульніў вядомыя факты пра мінулае Беларусі з погляду ўласна-нац. гісторыі (падзеі даведзены да 1905). У «Нашай ніве» ў рубрыцы «З нашай мінуўшчыны» і ў газ. «Гоман» змясціў шэраг артыкулаў па гісторыі Беларусі. Некаторыя з іх склалі асобнае выданне «Каліcь і цяпер: Гістарычна-грамадзянскія нарысы» (Вільня, 1918). У пач. 1920-х г. працаваў над «Нарысамі беларускай гісторыі», якія па сутнасці ўяўляюць сабой першую бел. энцыклапедыю гісторыі Беларусі і складзены з розных тэрмінаў і паняццяў з бел. мінуўшчыны (машынапісны экз. захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Цэнтр. навук. б-кі АН Літвы). Даследаваў стараж.-бел. л-ру, гісторыю і паходжанне назвы Беларусь. Аўтар гіст. аповесці «Лабірынты» (1923), сцэнічнага эпізода з жыцця Ф.Скарыны («Адзінокі», 1923). Апрацоўваў гіст. легенды. Выдаў «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (Коўна, 1924; 2 выд. Мн., 1991), які акрамя асн. лексічнага масіву ўключаў: рус.-бел. слоўнік асабовых імён «Крыўскі (беларускі) іменьнік»; слоўнік тэрмінаў арніталагічных «Назовы птахаў» і батанічных — «Іменьнік расьцін»; слоўнік бел. вайсковай тэрміналогіі «Вайсковая каманда». У 1925 апублікаваў «Летапісец Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» паводле спіса Рачынскага. Аўтар «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна, 1926), якая ўяўляе сабой агляд «звыш 1000 важнейшых рукапісных кніг, грамат, старадрукаваных кніг з пачатку зараджэння беларускага пісьма (X ст.) аж да XIX ст.». Пасля пераезду ў БССР апрацаваў разам з М.Шчакаціхіным «Праваднік па аддзеле сучаснага беларускага малярства і разьбярства» (Мн., 1929), распачаў вял. працу «Матэрыяльная культура Беларусі», якая ахоплівала перыяд ад 16 да 20 ст. Аўтар апавяданняў, артыкулаў пра С.Палуяна, П.Багрыма, Ц.Бычкоўскага, К.Каліноўскага, В.Цяпінскага і інш., успамінаў пра М.Багдановіча, Я.Купалу, «нашаніўскі перыяд». Перакладаў з рус. (А.Талстой), англ. (Р.Кіплінг, Б.Мэон), польскай (Э.Ажэшка, А.Валодзьскі,

К.Тэтмаер), дацкай (Х.К.Андэрсен) і інш. моў. Дакументы і матэрыялы з архіва Л. захоўваюцца ў Вільнюсе, Маскве, Мінску, Саратаве.

*Тв.*: Прыгоды Панаса і Тараса: [Апавяданне]. Пінск, 1912 (Пад псеўд. Арцём Музыка); Niedaświety: Zbornik apawiadańniaŭ i liehend, Wilnia, 1918; Zahadki. Wilnia, 1918; Raściny: Padručnik dla szkolnaha ŭžytku. Wilnia, 1918; Творы. Мюнхен, 1956; Прамова ў Жэневе / Публ. Я.Янушкевіча // Спадчына. 1993. № 5; Моя политическая деятельность / Публ. М.Ількевіча // Пагоня. 1994. 27 жн.—2 верас.; Нарысы з беларускай гісторыі / Публ. А.Каўкі // Спадчына. 1996. № 4—6; Выбраныя творы. Мн., 1997; Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны / Укладальнік Я.Янушкевіч. Мн., 2003.

*Літ.*: Я н у ш к е в і ч Я. Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі. Мн., 1995.

***Язэп Янушкевіч.***

**латышы** (саманазва latvieši), народ балцкай моўнай групы. Утварыліся ў выніку ўзаемадзеяння балцкіх (латгалы, селы, земгалы, куршы), часткова фіна-угорскіх (лівы) плямён. Па паходжанні, мове і культуры блізкія да *літоўцаў*. Л. кансалідаваліся ў народнасць да пач. 17 ст. Этнакультурныя сувязі латышскага і беларускага народаў маюць даўнія традыцыі. Ва ўсх. і цэнтр. Латгаліі былі створаны раннефеадальныя княствы Герцыке і Кукейнос, якія да пач. 13 ст. былі васаламі Полацкага княства. У 13 ст. жыхары Полацкай зямлі разам з латгаламі і інш. балцкімі плямёнамі змагаліся супраць нямецкіх рыцараў. У *Саўлескай бітве 1236* літоўцы з земгаламі і куршамі перамаглі крыжацкае войска. У *бітве на Дурбе 1260* куршы, якія былі ў крыжацкім войску, перайшлі на бок жамойтаў, што спрыяла перамозе апошніх. З 13 ст. праз латышскія землі і Рыгу вёўся гандаль Полацка, Віцебска, а пасля ВКЛ. Некаторыя групы земгальскага і куршскага насельніцтва ўвайшлі ў склад літоўцаў (гэтаму спрыяў дагавор з Лівонскім ордэнам 1529, паводле якога той саступіў ВКЛ некаторыя землі паўд. Латвіі). У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* да ВКЛ, а пасля Рэчы Паспалітай адышлі землі *Інфлянтаў* з балцкім насельніцтвам. Тут была створана васальная дзяржава — *Курляндскае і земгальскае герцагствы*, аўтаномнае *Задзвінскае княства*, якое ў 17 ст. пераўтворана ў *Інфлянцкае ваяводства* (княства). У 1585 у Вільні выдадзена першая кніга на латышскай мове — ка-


**Латышы** з Марыенгаўза. Малюнак І.К.Бротцэ. 1797.


**Латышы**. Малюнак Ф.Крузе. 1839.


**Латышы** з Айзкраўкле. Малюнак Ф.Крузе. 1839.


CATECHISMVS
Catholicorum,
Iſtige pam-
maciſchen / no theme
Cour
Rungam Petrum Caniſium/
Doctor.
1585.

Да арт. **Латышы**. П.К а н і з і й. Катэхізіс. Вільня. 1585. Тытульны ліст.

таліцкі катэхізіс Пятра Канізія ў перакладзе Эртмана Толгсдорфа. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Інфлянцкае ваяв. адышло да Рас. імперыі і было перайменавана ў Дзвінскую правінцыю. Курляндскае і Земгальскае герцагства было далучана ў 1795. У Беларусі захаваліся назвы населеных пунктаў Латышы, Латышчына, Латыгава, Латыголава, Латыголічы, Латыголь, якія сустракаюцца ў Бешанковіцкам, Гарадоцкім, Чашніцкім, Глыбоцкім, Вілейскім, Сенненскім, Міёрскім, Расонскім і інш. раёнах.

Вывучэннем гісторыі Л. у Беларусі, іх матэрыяльнай і духоўнай культурай з 1928 займалася Латышская камісія Інбелкульта, з 1929 — латышскі сектар Бел. АН, з 1933 — латышская секцыя Ін-та нацменшасцей АН БССР. Праграма даследавання латышскіх калоній прадугледжвала збіранне і вывучэнне этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў. Супрацоўнікі латышскай сесіі даследавалі пытанні этнагенезу Л., вывучалі іх мову ў Беларусі. У 1933—34 супрацоўнікамі латышскай секцыі ін-та Я.Доўгім і О.Панке быў падрыхтаваны практычны бел.-латышскі слоўнік у памеры 20—25 тыс. слоў. На аснове вынікаў праграмы даследавання латышскіх калоній К.Шкільтэрам апублікаваны працы «Латышскія калоніі на Беларусі: Гістарычнае развіццё латышскіх сялянскіх гаспадарак» (Мінск, 1931), «Латышскі селянін на Беларусі да і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі» (Мінск, 1935).

*Літ.*: Тугай У.В. Латышы на Беларусі. Мн., 1999; Яго ж. Латышскі этнас у сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці Беларусі. Мн., 2002.

***Уладзімір Тугай.***

**Лаўксмін** (Ляўксмін, Лаўксман) Зыгмунт (Жыгімонт; 1597, Жамойць—11.9.1670), педагог, аратар, музыкант. Д-р тэалогіі. З 1616 езуіт. У 1619—22 і 1625—29 вучыўся ў Віленская акадэміі. З 1628 ксёндз. У 1631—35 выкладаў рыторыку ў Полацку і Нясвіжы, у 1638—44 — філасофію і тэалогію ў Вільні, у 1647—50 — тэалогію ў Браневе. У 1644—47 і 1650—55 рэктар Полацкага калегіума, у 1655—58 віцэрэктар Віленскай акадэміі. Пасля выкладаў у Браневе і Пінску. У 1661—65 рэктар Крожскага калегіума, у 1665—70 праканцлер Віленскай акадэміі. Выдаў падручнік рыторыкі «Практыка рыторыкі» («Praxis oratoria», Бранева, 1648). Выпрацаваў новы метад навучання красамоўству, які абапіраўся на ўлік прыроды мовы, выступаў супраць макаранізмаў. Напісаў падручнік грэчаскай мовы (выданні невядомы). Выдаў падручнік для музычных бурс «Мастацтва і практыка музыкі» («Ars et praxis musicae», Вільня, 1667). выкарыстоўваўся ў вучэбных занятках многіх калегіумаў, а таксама ў Віленскай акадэміі. Падрыхтаваў цыкл катэхізічных прамоў для святароў, якія павінны былі прамаўляць вернікам; з 5 запланаваных частак выдадзена толькі 1-я пад назвай «Тэалогія прапаведнікаў» («Theologia ecclesiastica», Вільня, 1675). Удзельнічаў у 10-й (1651—52) і 11-й (1661) генеральных кангрэгацыях ордэна езуітаў у Рыме.

*Тв.*: Ars et praxis musica. Vilnius, 1977.

*Літ.*: Trilupaitienė J. Zygmunt Lauksmin w życiu muzycznym akademii Wileńskiej // Muzyka. 1991. № 1; Ліхач Т.У. Тэорыя харальных спеваў на Беларусі. Мн., 1999.

**Лаўмянская** (Łowmiańska) Марыя Пелагея (1899—1961), польскі гісторык. Жонка Г.*Лаўмянскага* (з 1924). Д-р гісторыі (1929). Скончыла Віленскі ун-т. Працавала настаўніцай у гімназіі ў Вільні, з 1945 у Познані, выкладала ў ліцэі імя Дамбрўўкі. Даследавала гісторыю сталіцы ВКЛ Вільні: нац. склад віленскіх рамесных цэхаў, купецкія карпарацыі Вільні, месца размяшчэння Метрыкі ВКЛ і інш. У манаграфіі «Вільня перад маскоўскім наездам 1655 г.» («Wilno przed najazdem moskiewskim 1655 roku», Вільня, 1929) разгледзела тапаграфію, склад насельніцтва, органы ўлады і гар. гаспадарку Вільні да сярэдзіны 17 ст. Удзельнічала ў выданні збору дакументаў *«Акты віленскіх цэхаў»*.

*Тв.*: Dokumenty do historji kamienic, przeznaczonych na chowanie metryki W.X.L. (1588—1712) // Ateneum Wileńskie. 1930. R. 7. Z. 1—2; W sprawie składu narodowościowego cechów wileńskich (w. XVI—XVIII) // Там жа; Hrehory Ościk i jego zdrada w roku 1580 // Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie, 1923—1933. Wilno, 1933; Udział communitatis mercatoriae w samorządzie wileńskim // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9; Wilno przed najazdem moskiewskim 1655 roku // Dwa doktoraty z Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie: Henryk Łowmiański. Wchody miast litewskich. Maria Łowmiańska. Wilno przed najazdem moskiewskim 1655 roku. Poznań 2005.

*Літ.*: Kiaupa Z. Maria i Henryk Łowmiańscy — badacze dziejów miasta Wilna // Profesor Henryk łowmiański: Życie i dzieło. Materiały z sesji naukowej poświęconej dziesiątej rocznicy śmierci Uczonego (Poznań 7—8 X 1994 r.). Poznań 1995.

***Альбіна Семянчук.***

**Лаўмянскі** (Łowmiański) Генрык (22.8.1898, мяст. Даўгі Вілкамірскага пав. Ковенскай губ., цяпер Даўгуджай Укмергскага р-на, Літва—4.9.1984), польскі гісторык-медыявіст, славяназнавец. Акадэмік Польскай АН (1956), д-р габілітаваны (1932). Вучыўся ў гімназіях Вільні, Чарнігава. У час вучобы на гіст.-філалагічным ф-це Кіеўскага ун-та (з 1918) вял. ўплыў на яго зрабіў М.В.Доўнар-Запольскі. Працягваў адукацыю ў Віленскім ун-це імя Стафана Баторыя, дзе з 1934 прафесар. З 1945 праф., заг. кафедры гісторыі Усх. Еўропы (пазней гісторыі СССР), з 1951 дырэктар Ін-та гісторыі Пазнанскага ун-та, заг. аддзела гісторыі Польшчы феад. перыяду Ін-та гісторыі Польскай АН. Даследаваў паліт., эканам., сац., ідэалагічныя, гісторыка-геаграфічныя праблемы ў гісторыі ВКЛ, гісторыю рэлігіі і культуры слав. і балцкіх народаў у эпоху сярэдневякоўя, працэсы фарміравання дзяржаўнасці на землях Цэнтр. і Усх. Еўропы. Вывучаў пытанні гісторыі Беларусі: генезіс Полацкай зямлі, падзеі 1019 у Берасці ў сувязі з барацьбой Святаполка Уладзіміравіча і Яраслава Мудрага за кіеўскі прастол, асобу кн. Вітаўта, гаспадарчыя, сац. і паліт. падставы і ўмовы Крэўскай уніі 1385, вайсковыя попісы ВКЛ у 16 ст., гаспадарчую структуру і гандаль Магілёва ў 16 ст., гісторыю Навагрудскага ваяв. да 18 ст. і інш.

*Тв.*: Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1—2. Wilno, 1931—32; Rys historyczny województwa nowogródzkiego w jego dzisiejszych granicach (do r. 1795). Wilno, 1935; Podstawy gospodarcze formowania się państw słowiańskich. Warszawa, 1953; Zagadnienie roli Normanów w genezie państw słowiańskich. Warszawa, 1957; Początki Polski. T. 1—6. Warszawa, 1963—85; Religia Słowian i jej upadek (w. VI—XII). Warszawa, 1979 (2 wyd. 1986); Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983; Studia nad dziejami Słowiańszczyzny, Polski i Rusi w

wiekach średnich. Poznań, 1986; Prysy—Litwa—Krzyżacy. Warszawa, 1989; Witold wielki książę litewski // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1997. T. 7; Zaludnienie państwa litewskiego w wieku XVI. Zaludnienie w roku 1528. Poznań, 1998; Polityka Jagiellonów. Poznań, 1999; Рус. пер.—Русь и норманны. М., 1985; Религия славян и ее упадок (VI—XII вв.). СПб., 2003.

*Літ.*: Słowianie w dziejach Europy. Poznań, 1974 (змешчана бібліяграфія прац Л.); Bardach J. Henryk Łowmiański jako badacz dziejów Litwy historycznej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1987. T. 2; Kosman M. Szkic do portretu Uczonego // Łowmiański H. Prysy—Litwa—Krzyżacy. Warszawa, 1989; Profesor Henryk Łowmiański: Życie i dzieło. Materiały z sesji naukowej poświęconej dziesiątej rocznicy śmierci Uczonego (Poznań 7—8 X 1994 r.). Poznań, 1995.

***Генадзь Семянчук.***

**лаўнік**, 1) член *магістрата* ў гарадах ВКЛ, якія мелі магдэбургскае права. Выбіраліся гар. абшчынай (грамадой), радай ці прызначаліся *войтам* з мяшчан гэтага горада. Разам з войтам складалі *войтаўска-лаўніцкі суд*, які разглядаў крымінальныя справы гараджан. Паколькі нормы самакіравання ў гарадах паводле магдэбургскага права адрозніваліся, судовыя функцыі часта выконваў увесь магістрат, а не толькі Л. У гарадах, што не мелі магдэбургскага права, разам з войтамі былі і Л., хоць магістрата (рады) не было. Так, у Клецку (належаў Радзівілам) у 1575 былі 3 Л., якія за выкананне сваіх абавязкаў атрымлівалі вольныя ад падаткаў участкі зямлі ў горадзе. 2) Службовая асоба ў дзяржаўнай (вялікакняжацкай) вёсцы ВКЛ, уведзеная паводле *«Уставы на валокі» 1557*. Выбіраўся або прызначаўся з заможных сялян (па 2—3 у кожнай вёсцы), падпарадкоўваўся войту. Л. разглядалі дробныя справы, выконвалі паліцэйскія функцыі. У 16—18 ст. Л. былі ў прыватнаўладальніцкіх вёсках.

*Літ.*: Русская историческая библиотека. Т. 30. Юрьев, 1914; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Лаўрык** Юрый Мікалаевіч (н. 30.11.1966, г. Мінск), беларускі гісторык культуры. Магістр тэалогіі (1999). Скончыў Мінскі ін-т культуры (1990), Люблінскі каталіцкі ун-т (1999). У 1990—91 працаваў у Цэнтр. б-цы імя Я.Купалы Мінскай ЦБС, у 1991—94 у НДІ адукацыі, у 2004—05 у Нац. б-цы Беларусі, з 2005 у Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі (з 2006 заг. Навук. б-кі). Даследуе гісторыю кнігі і асветы на Беларусі, гал. чынам 16—18 ст. Адзін са складальнікаў бібліяграфічнага паказальніка «Асвета і педагагічная думка на Беларусі (са старажытнасці да пачатку XX ст.)» (ч. 1—2, Мінск, 1995).

*Тв.*: Іпаці Пацей // Спадчына. 1992. № 2; Асветная дзейнасць Іпація Пацея // Пачатковая школа. 1992. № 7; Скарбніцы мудрасці: Бібліятэкі езуіцкіх навучальных установ (кан. XVI—пач. XIX ст.) // Адукацыя і выхаванне. 1994. № 8; Беларускія пазнакі ў зборах Бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лёндане. Лёндан, 2001; Belarusian Warning Inscriptions in Old Printed Books of the 16th—18th Centuries // New Zeland Slavonic Journal. Wellington, 2003; Беларускія засьцерагальныя надпісы на стадруках XVI—XVIII ст. // Спадчына. 2003. № 4—5; Беларускія кніжныя інскрыпцыі XVI—XVIII ст. // Здабыткі. Мн., 2004. Вып. 6; Пачаткі уніяцкай гамілетыкі: Прапаведніцкая спадчына мітрапаліта Іпація Пацея // Роднае слова. 2005. № 6—7; Найдаўнейшыя беларускія бібліятэкі: Ад старажытнасці да сярэдзіны XVI ст. // Там жа. 2006. № 2, 4; Баркалабаўскі ноталінейны ірмалой — помнік кнігапіснай традыцыі Куцеінскага манастыра // Музейны веснік. Мн., 2006. Вып. 3.



**Лаўрышаўскае Евангелле**. Пераплёт з абкладам.

**Лаўрыновіч** Антоній Тамаш (20.10.1750, Жамойць—пасля 1796), паэт, педагог. Д-р тэалогіі. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Пашаўшы. З 1766 езуіт. У 1772 скончыў Віленскую акадэмію. Выкладаў у школах Адукацыйнай камісіі ў Менску і Вільні. Пробашч у Пуньску каля Сейн, з 1793 канонік інфлянцкі. Выдаў зборнік на польскай мове «Паўкапы баек» («Pół kopy bajek», Гародня, 1789), пахавальную прамову ў гонар Ружы Струцінскай (Гародня, 1793). Байкі Л. абапіраюцца на сюжэты Эзопа, Ж. дэ Лафантэна, К.Апалінскага, маюць невял. памеры (4—30 вершаў), у іх прысутнічаюць беларусізмы.

*Літ.*: Kolbuszewski K. Antoni Tomasz Ławrynowicz: Kartka z dziejów polskiego bajkopisarstwa XVIII wieku // Pamiętnik literacki. 1936. R. 33.

**Лаўрышаўскае Евангелле**, помнік рукапіснага мастацтва канца 13—пач. 14 ст. Створана для Успенскай царквы *Лаўрышаўскага манастыра*, дзе захоўвалася да 1822, пасля — у А.Чартарыйскага, захоўвалася ў Пулавах, Парыжы, цяпер у Б-цы Музея Чартарыйскіх у Кракаве. Евангелле-апракас на царк.-слав. мове з рысамі паўд.-рус. гаворак. Рукапіс напісаны ўставам у 2 слупкі на 183 аркушах пергаменту in folio (памер старонкі прыкладна 22 х 31 см), упрыгожаны 18 мініяцюрамі з выявамі святых Іаана, Мацвея, Лукі, Міхаіла-архангела, Іова, евангельскіх сцэн (у 14 ст. дамаляваны мініяцюры, дзе паказана размова Варлаама з Іасафатам, сюжэт з прыпавесці аб адзінарогу), адной застаўкай, ініцыяламі (для некаторых пакінуты пустыя месцы). На палях рукапісу 14 прыпісак 1-й пал. 14—2-й пал. 16 ст., дзе князі і паны (сярод іх Альелька Уладзіміравіч, Дзмітрый Альгердавіч, Іван Александровіч) засведчылі перадачу манастыру грошай, збожжа, дзесяціны і зямельных уладанняў. Рукапіс мае пераплёт з дошак, абцягнутых вішнёвым аксамітам. Спераду ў цэнтры на ім прымацавана бронзавая плакетка (17 ст.?) з гравіраванай выявай св. Дзмітрыя Салунскага пад архітэктурнай аркай, у вуглах — трохвугольныя нарожнікі (усе дэталі маюць гнёзды з рубінамі і сапфірамі), ззаду — плакетка з гравіраваным Распяццем. На думку аднаго з першых даследчыкаў рукапісу І.Свянціцкага, Л.Е. напісана ў пач. 14 ст. і адносіцца да паўн.-ўсх. беларускай рэдакцыі. Апошнія даследчыкі звязваюць паходжанне Л.Е. з земля-

мі Галіцка-Валынскага княства (уключна з паўд.-зах. Беларуссю) і датуюць яго мяжой 13—14 ст. Не выключана, што Евангелле было створана па заказу вял. кн. *Войшалка* і адразу прызначалася для Лаўрышаўскага манастыра.

*Літ.*: Свенцицкий И.С. Лаврашевское Евангелие начала XIV века: (Палеографически-грамматическое описание) // Изв. Отд. рус. яз. и словесности Имп. Акад. наук. СПб., 1913. Т. 18, кн. 1; Friedelówna T. Ewangeliarz ławryszewski: Monografia zabytku. Wrocław etc., 1974; Smorąg R.M. Ewangelarz Ławryszewski. Kraków, 1999; Русіна О. До атрибуції вкладних записів Лаврашівського Євангелія // Український археографічний щорічник. Київ, 2000. Вип. 3/4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лаўрышаўскі манастыр**, азін з найбольш старажытных манастыроў Беларусі. Існаваў у в. Лаўрышаў каля Навагародка ў 13—19 ст. Згадваецца ў летапісах ВКЛ, «Хроніцы» М.Стрыйкоўскага, у працах правасл. (Пётр Магіла), уніяцкіх (І.Сцябельскі) і каталіцкіх (А.Каяловіч) гісторыкаў 17 ст. Засн. ў 13 ст. вял. кн. *Войшалкам* (у манастве Лаўрэнцій, Лаўрыш), ад яго імя атрымалі сваю назву вёска і манастыр (паводле царк. версіі, заснавальнік манастыра — прападобны Елісей Лаўрышаўскі, якому ў 1996 у Лаўрышаве адкрыты помнік). На думку М.Ермаловіча, С.Думіна і інш., манастыр заснаваны як апора правасл. хрысціянізацыі гіст. Літвы. У 13 ст. быў адным з цэнтраў летапісання Беларусі. Тут створана *Лаўрышаўскае Евангелле*. У 14—15 ст. манастыр атрымаў ад Хадкевічаў, Храптовічаў і мясц. шляхты значныя падараванні ў выглядзе ворных зямель, сенажацей, вадаёмаў, вёсак з сялянамі, права збору царк. дзесяціны. У 16 ст. пры манастыры працавала правасл. школа. У 1596 манастыр стаў уніяцкім, з 1615 належаў базыльянам. У 1621 і 1623 тут праходзілі базыльянскія кангрэгацыі (з'езды членаў ордэна з удзелам вышэйшых іерархаў уніяцкай царквы), на якіх выпрацоўваліся арганізацыйныя асновы ордэна, царк. палітыка. У сувязі са скасаваннем мітрапалітам І.Руцкім у Лаўрышаве архімандрыі і падпарадкаваннем Л.м. разам з уладаннямі Навагародскаму манастыру, а таксама з адбіраннем падараванняў савецкімі асобамі манастыр у сярэдзіне—2-й пал. 17 ст. збяднеў і заняпаў. Пытанне пра аднаўленне архімандрыі абмяркоўвалася на Віленскай (1636), Навагародскай (1671), Жыровіцкай (1675) і Бельскай (1709) кангрэгацыях базыльян. У канцы 18—1-й трэці 19 ст. тут дзейнічала Брэсцкая епархіяльная уніяцкая семінарыя, былі б-ка (каля 500 тамоў, 1824) і архіў з вял. зборам дакументаў 14—19 ст. Пры царкве існавала брацтва. Апошні раз манастырскі комплекс адбудаваны ў 1775—80. Ён складаўся з драўляных царквы, жылога корпуса, званіцы і невял. мураванай пабудовы, дзе знаходзіліся б-ка і склад. У 1816 манастыр валодаў 3 вёскамі (Лаўрышаў, Лычыцы і Купіск) з 18 валокамі зямлі і 588 сялянамі. У 1824 у манастыры было 5 манахаў. У 1834—36 Л.м. скасаваны. Яго збудаванні не збераглііся. Інвентары манастыра канца 18—пач. 19 ст. захоўваюцца ў рукапісным аддзеле б-кі Вільнюскага ун-та.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1900. Т. 12. С. 17—163; 1902. Т. 13. С. 8—18; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907; Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 94.

***Святлана Марозава.***

**Лаўцявічус** (Laucevičius) Эдмундас [18(31).7.1906, Шаўляй, Літва—7.1.1973], літоўскі гісторык мастацтва. Скончыў Каўнаскі (1929) і Вільнюскі (1950) ун-ты. Працаваў у мін-ве фінансаў (1925—35), пасольстве Літвы ў Лондане (1935—40). З 1940 выкладаў у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Вільнюса, працаваў у Дзярж. мастацкім музеі Літвы. У творы «Папера ў Літве ў XV—XVIII стст.» (1967, рус. пер. 1979) сабраў звесткі пра паперні ў Вільні, Слуцку, Паставах, Гальшанах, Смаргоні і інш. Да яе далучаны атлас вадзяных знакаў з выявамі больш як 4 тыс. філіграней. У манаграфіі «Кніжныя пераплёты XV—XVIII стст. у бібліятэках Літвы» (1976) сабраў звесткі пра 130 майстроў-пераплётчыкаў, апісаў каля 600 пераплётаў рукапісных кніг і старадрукаў. Пасмяротна выдадзена ў дапоўненым выглядзе праца Л. «Ювелірная справа ў Літве ў XV—XIX ст.» (2001).

*Тв.*: Popierius Lietuvoje XV—XVIII a. Vilnius, 1967; XV—XVIII a. knygų įrišimai lietuvos bibliotekose. Vilnius, 1978; Бумага в Литве в XV—XVIII веках. Вильнюс, 1979; Lietuvos auksakalystė XV—XIX amžius. Vilnius, 2001 (з Б.Р.Віткаўскене).

*Літ.*: Jakelaitis V. Edmundas Laucevičius: Ar pažįstam jį? Vilnius, 1994.

**лашт** (ням. Last цяжар, груз), адзінка масы. Выкарыстоўваўся ў балтыйскіх партах у 13—20 ст. у асн. для вымярэння ёмістасці марскіх і рачных суднаў пры гандлі с.-г. прадуктамі (збожжа, масла, паташ, смала, дзёгаць, лён і інш.). Найб. значэнне мелі велічыні Л., прынятыя пры экспарце тавараў у Рыгу, Гданьск, Каралявец і інш. У 15—18 ст. польскі Л. змяшчаў 30 карцаў варшаўскіх, або 60 карцаў гданьскіх (2007—3003 л, або 2107—2124 кг пшаніцы). Каралявецкі Л. адпавядаў 8 літоўскім бочкам і 3 чвэрцям. Рыжскі Л. 13 ст. складаў 30 рус. коп (кожная 8 лівонскіх фунтаў), быў роўны 165 пудам (2802,7 кг). З 15 ст. ў залежнасці ад тыпу тавараў ён знізіўся да 90 пудоў (1474, 19 кг) і 72 пудоў (1179,3 кг). У 17—18 ст. пад назвай «прыбалтыйскага» або «літоўскага» рыжскі Л. змяшчаў 45 пур (1 пур роўны 105 фунтам) або 8 бочак з асьмінай ці 12 беркаўцаў (каля 120 пудоў, або 1965,588 кг). Быў таксама Л. у 12 бочак, адпавядаў 109 фаскам (1785,41 кг) або 30—32 карцам кракаўскім (1890—2016 кг, ці 2578,7—2750,6 л). Паводле тапаграфічнага апісання Полацкага намесніцтва за 1792, рыжскі Л. па Зах. Дзвіне змяшчаў 15,5 рус. чвэрцяў або 22,5 рыжскіх бочак (124 пуды, ці 1789,78 кг). Той жа Л. пшаніцы або ячменю ўмяшчаў 16,5 рус. чвэрцей ці 24 рыжскія бочкі (2330 кг), аўса — 21 рус. чвэрць або 30 рыжскіх бочак (2966 кг). Рускі Л. 17—18 ст. змяшчаў 72 пуды (1179,3528 кг), у канцы 19 ст.—149,475 пудоў (2448,3855 кг). У цэлым карабельны, або фрахтавы, Л. вагаўся ад 1,5 да 3 т.

*Літ.*: Шостьин Н.А. Очерки истории русской метрологии, XI—начало XX в. 2 изд. М., 1990.

***Яўген Анішчанка.***

**Лашч** (Łaszcz) Марцін (11.11.1551, г. Каліш, Польшча—24.5.1616), дзеяч каталіцкай царквы, палеміст, ідэолаг контррэфармацыі. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Пултуску, дзе ў 1570 уступіў у ордэн езуітаў, пасля ў Браневе. У 1571—74 вывучаў філасофію ў Віленскім езуіцкім калегіуме. Займаў духоў-


WIECZERZA
EWANGELICKA
W Obronie szafunku
wieczerzy Ministrow wypisana.
Przez Xiedza Marcina Tworzydla/ Proboszcza Kościola swietey Troyce
w Wilnie/ wydana.
Przytym
Odpowiedz na Contradictie Ministrowskie.
W WILNIE,
Daniel Leczycki drukował. Roku
Pańskiego/ 1594.

М.**Лашч**. Евангельская вячэра. Вільня, 1594. Тытульны ліст.

ныя і адм. пасады ў Пултуску, Познані, Любліне. З 1593 прапаведнік у Вільні, дзе выдаў шэраг палемічных твораў на польскай мове. Супраць дзеячаў Рэфармацыі Войцеха з Каліша, М.Чаховіца, Я.Немаеўскага накіравана яго кніга «Юдыцыюм або розум...» («Judicium albo rozsądek...», Вільня, 1594), падпісаная псеўданімам «Мікалай Ісіёра, ашмянскі пробашч». Твор Л. «Акуляры на люстэрка хрысціянскага набажэнства ў Польшчы...» («Okulary na zwierciadło nabożeństwa chrześcijańskiego w Polsce...», Вільня, 1594, 2 выд. Кракаў, 1597) надрукавана пад псеўданімам Марцін Тварыдла) скіравана супраць кнігі Б.Ш.Турноўскага «Люстэрка хрысціянскага набажэнства...» (Вільня, 1594), у якой выкладаліся погляды плыні «чэшскіх братоў». Палеміку працягнуў у кн. «Другія акуляры на цёмныя і сляпыя вочы міністраў...» («Okulary wtóre na ciemne i ślepe oczy ministrów...», Вільня, 1605). Пад псеўданімам М.Тварыдла выдаў твор «Евангельская вячэра» («Wieczerza ewangelicka», Вільня, 1594). З 1595 Л. жыў у Кракаве, Торуні, Познані, Львове. Шматлікія палемічныя творы Л. атрымалі шырокую вядомасць дзякуючы яркай вобразнай мове, якая часам пераходзіла ў лаянку, аднак ім не хапала грунтоўнай аргументацыі.

*Валерый Пазднякоў.*

**Леантовіч** (Леонтович) Фёдар Іванавіч [1833, с. Папоўка Канатопскага пав. Чарнігаўскай губ.—21.12.1910 (3.1.1911)], расійскі гісторык права. Д-р дзярж. права (1868), заслужаны праф. (1888). Скончыў Кіеўскі ун-т (1860). Выкладаў у 1-й Кіеўскай гімназіі (1860—61), Рышэльеўскім ліцэі ў Адэсе (1861—63), прыват-дацэнт Кіеўскага ун-та (1863—65). З 1865 у Наваросійскім ун-це ў Адэсе: дацэнт (1865), экстраардынарны праф. (1868), ардынарны праф. (1868), рэктар (1869—77), дэкан юрыд. ф-та (1878—81), прарэктар (1881—84). У 1884—92 дырэктар Адэскага камерцыйнага вучылішча. У 1892—1902 праф. Варшаўскага ун-та. Адзін з заснавальнікаў і ў 1900—02 першы старшыня Таварыства гісторыі, філалогіі і права пры Варшаўскім ун-це. Прадстаўнік юрыд. школы рас. гістарыяграфіі. Даследаваў гісторыю дзярж. устаноў і права Стараж. Русі, ВКЛ, слав. народаў. Развіваў тэорыю абшчыннага паходжання Рус. дзяржавы. Вывучаў праблемы рэцэпцыі польскага права ў ВКЛ. Выдаў зборнік *«Акты Літоўскай Метрыкі»*. Увараўская прэмія 1895.

*Тв.*: Крестьяне юго-западной России по литовскому праву XV и XVI вв. // Университетские известия. Киев, 1863. № 10—11; Историческое исследование о правах литовско-русских евреев // Там жа. 1864. № 3—4; Русская Правда и Литовский Статут, в видах настоятельной необходимости включить литовское законодательство в круг истории русского права // Там жа. 1865. № 2—4; Спорные вопросы по истории русско-литовского права. СПб., 1893; Источники русско-литовского права: Общий обзор источников. Договоры. Земские и областные привилеи // Варшавские университетские известия. 1894. Кн. 1; Очерки истории литовско-русского права: Образование территории Литовского государства. СПб., 1894; Крестьянский двор в Литовско-русском государстве. Вып. 1—3. СПб.; Варшава, 1897—98; К вопросу о выморочных имуществах по литовскому праву // Журнал Мин-ва юстиции. 1897. № 6, 9, 10; К истории административного строя Литовского государства: I. Сословный тип территориально-административного состава Литовского государства. II. Панский двор в Литовском государстве. Варшава. 1899; Бояре и служилые люди в Литовско-Русском государстве // Журнал Мин-ва юстиции. 1907. № 5, 6; Рада великих князей литовских // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1907. № 9, 10; Правоспособность литовско-русской шляхты // Там жа. 1908. № 3, 5—7. 1909. № 2, 3; Областное управление в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Юрид. зап., изд. Демидовским юрид. лицеем. 1908. Вып. 2; 1909. Вып. 1—2; 1910. Вып. 1; Суд господарей и их советников в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Журнал Мин-ва юстиции. 1909. № 6—7; Центральные судебные учреждения в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Там жа. 1910. № 2.

*Літ.*: Тарановский Ф. Список ученых трудов Ф.И.Леонтовича // Зап. О-ва истории, филологии и права при Императорском Варшавском ун-те. Варшава, 1909. Вып. 4; Бондарук Т.І. Основоположники київської історико-юридичної школи: М.Ф.Владимирський-Буданов і Ф.І.Леонтович. Київ, 1995; Михальченко С.И. Киевская школа в российской историографии: (школа западно-русского права). М.; Брянск, 1996; Яго ж. Юридический факультет Варшавского университета, 1869—1917 гг.: Краткий исторический очерк. Брянск, 2000; Иллерицкая Н.В. Историко-юридическое направление в русской историографии второй половины XIX века. М., 1998.

**«Лебедзь»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 220 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Даўгялы, Доўгірды, Дуніны-Марцінкевічы, Гінвілы, Галоўчынскія, Завішы, Матушэвічы, Тальвашы, Шэметы, Юндзілы. У чырвоным полі сярэбраны лебедзь; клейнод — над прылбіцай з каронай такі ж самы лебедзь. Вядомы з 13 ст., у ВКЛ — пасля Гарадзельскай уніі 1413.

**лейці**, група *сялян-слуг* у Літве і ВКЛ у 12—16 ст. Мяркуецца, што тэрмін узнік у 5 ст. як этнонім, вытворны ад старой назвы Літвы «Лейта»; першапачаткова вызначаў этнічную прыналежнасць і ў такім значэнні спарадычна ўжываўся да 15 ст. З канца 12 ст. ўжываўся і да сац. групы. Паколькі Л. былі падобны сваім становішчам да дружыннікаў, звязаных з князем асабістымі адносінамі, азначэнне этнічнай прыналежнасці трансфармавалася ў азначэнне сац. сувязі з суверэнамі, суверэнам, які гэты этнас увасабляў. Л. выконвалі пераважна функцыі памежнай варты. У 13—14 ст. рассяляліся вял. князямі вакол гаспадарскіх замкаў і двароў. Удзельнічалі ў абароне замкаў, адбіцці варожых нападаў, у мірны час рамантавалі замкі, займаліся сельскай гаспадаркай. Былі апорай велікакняжацкай улады на месцах, у

Жамойці выконвалі паліцэйскія функцыі і падаўлялі сепаратысцкія памкненні мясцовай знаці і паспольства. Роля паселішчаў Л. у абароне граніц ВКЛ знізілася пасля ўвядзення вял. кн. Віценем мабільных атрадаў памежнай варты, але Л. працягвалі несці ваенную павіннасць, выконвалі функцыі ваенных слуг, суправаджалі вял. князя ў падарожжах, даглядалі велікакняжацкіх коней і інш. Паселішчы Л. канцэнтраваліся на важнейшых рубяжах ВКЛ: вакол Батакяеў, Відукляў іІлькіі ў Жамойці для яе абароны ад крыжакоў; каля Вількаміра, Анікштаў, Уцяны і Свянцян для абароны «нямецкага рубяжа», праведзенага ў 13 ст. паміж уладаннямі Міндоўга і Лівонскага ордэна; каля Гегужына пры ўпадзенні р. Святая ў Вяллю, аддадзенага Міндоўгам свайму сыну Руклю з мэтай супрацьдзейнічаць Таўцівілу; каля Ласосны ў Слонімскім пав. па паўд. рубяжы ВКЛ 13 ст.; каля Бакштаў у Ашмянскім пав. Вядомы паселішчы Л. на Прыпяці ў Кіеўскім ваяв. Л. карысталіся асабістымі правамі і вольнасцямі, якія распаўсюджваліся на іх сем'і. Мелі права нашэння зброі і ўдзелу ў вайне; маглі карыстацца зямлёй, пакідаць яе і потым вяртацца. Былі намінальна залежнымі ад вял. князя і знаходзіліся пад яго патранатам. У сувязі з рэфармаваннем абарончай структуры ВКЛ паступова страцілі сваё ваеннае значэнне. У 15—16 ст. выпадкі надання статуса Л. не зафіксаваны. Канчаткова зніклі як сац. група пасля *валочнай памеры* сярэдзіны 16 ст., часткова зліліся са шляхтай, а часткова — з асабіста вольнымі ці прыгоннымі сялянамі.

*Літ.*: Дубонис А. Лейтис в литовском обществе (XIII—XVIII вв.) // Acta Baltico-Slavica. Warszawa, 1996. Т. 23; Яго ж. Lietuvos didžiojo kunigaikščio leičiai: iš Lietuvos ankstyvųjų valstybinių struktūrų praeities. Vilnius, 1998.

***Ягор Новікаў.***

**Лельчыцы** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Лельчыцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мазырскім пав., на левым беразе р. Убарць. Было цэнтрам Убарцкай вол., што належала Віленскаму біскупству. Упершыню панскі двор і сяло Л. ўпамінаюцца ў 1622. Аднак яшчэ ў 1567 вял. кн. Жыгімонт II Аўгуст дазволіў біскупу віленскаму В.Пратасевічу заснаваць у маёнтку Убарць мястэчка. Відаць, мястэчка было заснавана побач з панскім дваром Л. і таксама называлася Л. У 1650 у Л. згадваецца уніяцкая царква, у 1651 віленскі біскуп Е.Тышкевіч выдаў ёй 3 фундушы. У 18 ст. Л. часам называліся Убарць, у 1756 названы мястэчкам Убарць. У інвентары 1763 адзначана вёска Л., дзе 59 дымоў, 187 сялян мужчынскага полу, новая царква, праводзіліся кірмашы, «як здаўна было». У 1777 у Л. 40 хат, уніяцкая Троіцкая царква, у 1787 — 50 хат, новая царква, што была пабудавана замест згарэлай, у 1789 — 59 дымоў, 393 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Хроніка Убарцкага Палесся. Мн., 2001.

**Лепель** (цяпер горад, цэнтр Лепельскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Полацкім ваяв., на беразе Лепельскага воз. Упершыню ўпамінаецца ў 1439 у сувязі з перадачай Лепельскага маёнтка кн. Міхаілам Жыгімонтавічам у дар Віцебскаму касцёлу. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* пабудаваны *Лепельскі замак*, побач з якім на востраве Лепельскага воз. ў 1563 заснавана «места Лепель». У 1568 вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст перадаў Л. у пажыццёвае ўладанне полацкаму кашталяну Ю.М.Зяновічу. Пасля смерці апошняга (1583) Л. перайшоў да полацкага ваяводы М.Дарагастайскага. У 1580 «места» Л. налічвала 300 дымоў, якія размяшчаліся на востраве і на зах. беразе возера (цяпер в. Стары Лепель). У 1586 Л. адкупіў падканцлер ВКЛ Л.І.Сапега. За 3 км ад «места» Л. у в. Белае ён заснаваў мястэчка, якое атрымала назву Новы або Белы Лепель, куды быў перанесены гандлёвы цэнтр, там пабудаваны замак, царква і касцёл. У 1609 Сапега падараваў Стары і Новы Лепель (пасля ўтварылі адзін горад), а таксама шэраг вёсак у Полацкім ваяв. Віленскаму кляштару бернардзінак. У 1772—76 Л. — адм. цэнтр Полацкага ваяв., там адбываліся пасяджэнні земскага і гродскага судоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Горбачевский И.Д. Лепельский уезд Витебской губернии. Витебск, 1895; Довгяло Д.И. Лепель, уездный гор. Витебской губ.: Хроника минувшей жизни. Витебск, 1905.

***Ілья Януш.***

**Лепельскі замак.** Існаваў у 16 ст. Размяшчаўся на востраве воз. Лепельскае, насупраць в. Стары Лепель (Полацкае ваяв., цяпер Лепельскі р-н). Пабудаваны ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У 1562 замак меў сталы гарнізон, узброены ручніцамі і артылерыяй. У 1563 рас. войскі пасля ўзяцця Полацка занялі і спалілі Л.з. На замчышчы яны залажылі астрог і пакінулі ў ім значны гарнізон, але войскі ВКЛ на чале з гетманам М.Радзівілам Рудым штурмам узялі яго і спалілі. Неўзабаве ўмацаванні былі адноўлены. У 1563 побач з замкам заснаваны г. *Лепель*. У 1568 пачалося буд-ва новага драўлянага замка. Яго будавала мясц. насельніцтва пад кіраўніцтвам лепельскага старасты і полацкага кашталяна Ю.М.Зяновіча. Л.з. быў прамавугольны ў плане, фланкіраваны вуглавымі вежамі. З паўн. боку яго ад горада аддзяляў шырокі роў, які часткова папаўняўся вадой з возера. У нанава пабудаваным замку размясціўся гарнізон з 200 коннікаў і 100 салдат-«драбаў». З Віленскага цэйхгаўза паступалі вял. партыі агнястрэльнай зброі і амуніцыі. Дастаткова ў замку было і артылерыі. Гісторык А.Гваніні адзначаў, што «Лепле — места і замак дастаткова ўмацаваны, над возерам як бы на востраве пабудаван». Каля Л.з. і пад яго аховай знаходзіўся гандлёвы порт.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхась Ткачоў.***

**Летавы**, Форбек-Летавы, шляхецкі род уласнага герба. Выводзілі сябе са шляхты Зах. Памор'я. Першапачаткова насілі прозвішча Літаў, Літаўэр. Родапачынальнік — бедны мешчанін з Эльбланга Матэвуш, які перасяліўся ў Вільню, дзе заняўся лекарскай дзейнасцю, у 1635 быў бурмістрам, у 1630 — куратарам Віленскага лютэранскага збору. У сярэдзіне 17 ст. Л. дамагліся зацвярджэння сваіх шляхецкіх правоў. Найб. вядомыя:

Мацей (12.2.1593, Вільня—7.6.1663), сын Матэвуша. Вучыўся ў школе пры Віленскім лютэранскім зборы, у Караляўцы, Гданьску, Віленскай акадэміі, падарожнічаў па Германіі, Швейцарыі, Нідэрландах, Францыі, Італіі, дзе ў 1612 паступіў у Падуанскі ун-т. Пасля вяртання з 1616 лекар у



Вільні, служыў у гетмана К.Радзівіла, а з 1635 — у караля Уладзіслава IV. Атрымаў пасаду каралеўскага сакратара, з 1636 скарбовы дваранін ВКЛ. Суправаджаў караля ў паездках унутры краіны і за мяжой. Быў шчырым лютэранінам, з 1636 куратар Віленскага збору, а з 1652 яго свецкі сеньёр. У 1652 кіраўнік Віленскага манетнага двара. У 1655—57 у эміграцыі ў Прусіі. Паводле загаду Б.Радзівіла збудаваў лютэранскую кірху ў Слуцку. Валодаў маёнткамі ў Польшчы, у Навагародскім і Старадубскім пав., каля Вільні. Аўтар вял. і цікавых мемуараў, напісаных папольску (надрукаваны ў 1968), дзе шмат звестак пра ваенныя падзеі сярэдзіны 17 ст.

Крыштоф Віктарын Збігнеў (27.2.1621—15.12.1691), сын Мацея. Разам з бацькам жыў пры каралеўскім двары. Ад Уладзіслава IV атрымаў пасады каралеўскага сакратара і скарбовага двараніна ВКЛ. З 1648 удзельнічаў у баявых дзеяннях супраць казацкіх войск Б.Хмяльніцкага, пасля ў войнах з Расіяй і Швецыяй. Стражнік польны ВКЛ з 1656, стольнік навагародскі з 1665, старадубскі войскі з 1666?, суддзя земскі з 1672, падкаморы з 1681, маршалак з 1683; каралеўскі палкоўнік, староста васількаўскі і барцянскі; пасол на сойм 1669. Валодаў маёнткамі ў Старадубскім пав., Полацкім і Менскім ваяв. Першапачаткова шчыры лютэранін, пасля перайшоў у каталіцтва.

Аляксандр Ежы (?—да 14.3.1707), сын Мацея. Старадубскі скарбнік з 1665, стольнік з 1672, харужы з 1688, падкаморы з 1689, маршалак з 1692, стражнік польны ВКЛ з 1692.

*Літ.*: Vorbek-Lettow M. Skarbec pamięci / Oprac. E.Galos i F.Mincer. Wrocław, 1968.

***Валерый Пазднякоў.***

**летапіс Археалагічнага таварыства**, помнік беларуска-літоўскага летапісання, спіс пашыранай рэдакцыі *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага»*, блізкі да *Альшэўскага летапісу*, аналагічны *Румянцаўскаму летапісу* і «Хроніцы» з *Патрыяршага рукапісу*. Змест Л.А.т. — гісторыя ВКЛ ад легендарных часоў да паходу вял. князя літоўскага на Падолле (пачатак і канец летапісу адсутнічаюць). Збярогся ў гіст. зборніку канца 16—пач. 17 ст., які ў 19 ст. знаходзіўся ў зборах Рус. археалагічнага таварыства, цяпер — у Рас. нац. б-цы ў С.-Пецярбургу. Апрача летапісу ў зборніку змешчаны пераклады лістоў германскіх імператараў, турэцкіх султанаў, А.М.*Курбскага*, «Сказанне» пра ўезд у Кракаў караля Яна III Сабескага, пра пахаванне каралёў Яна II Казіміра Вазы і Міхала Вішнявецкага. Апублікаваны ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 35, 1980).

**летапіс Аўрамкі**, гл. *Аўрамкі летапіс*.

**летапіс Быхаўца**, гл. *Хроніка Быхаўца*.

**летапіс Красінскага**, помнік беларуска-літоўскага летапісання, спіс 2-га агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапіснага зводу 1-й, кароткай, рэдакцыі (гл. ў арт. *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*). Дайшоў у рукапісе 2-й пал. 16 ст. бел. паходжання, які зберагаўся ў б-цы графоў Красінскіх у Варшаве і загінуў у час 2-й сусветнай вайны. Рукапіс без пачатку і канца. Апрача бел.-літ. хронікі ў ім змешчаны *«Александрыя»*, *«Хаджэнне ігумена Данііла»*, бел. пераклады біблейскай кнігі Товіт, *«Аповесць пра Таўдала»*, *«Сказанне пра Сівілу-прарочыцу»* і інш. свецкія і рэліг. творы. Л.К. складаецца з 2 частак: легендарнай гісторыі Літвы — «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», якая названа «Летапісцам», і «Кройники о великих князех литовских». У 1-й частцы выкладзена легенда пра паходжанне літ. князёў і шляхты ад рымскіх арыстакратаў (абрываецца на княжанні Трайдзена). 2-я частка складам блізкая да арыгінальнай часткі Слуцкага спіса 1-га агульнадзяж. бел.-літ. зводу — *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*. Яна ўключае *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»*, *«Аповесць пра Падолле»*, *«Пахвалу Вітаўту»* і шэраг апавяданняў па гісторыі ВКЛ канца 14—1-й пал. 15 ст. Л.К. апісаны Я.Ф.Карскім у працы «Пра мову так званых літоўскіх летапісаў» (Варшава, 1894). Упершыню апублікаваны А.Бычковым у 1893, пасля — у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 35, 1980).

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**летапіс Панцырнага і Аверкі**, гл. *Віцебскі летапіс*.

**летапіс Рачынскага**, Пазнанскі спіс, помнік беларуска-літоўскага летапісання, спіс 2-га агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапіснага зводу 3-й, поўнай рэдакцыі (гл. ў арт. *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*). Захаваўся ў рукапісе канца 16 ст. Змест летапісу — паліт. гісторыя ВКЛ ад легендарных часоў да 1548, дапоўненая запісамі па гісторыі Беларусі і Польшчы сярэдзіны 15—1-й пал. 16 ст. Сярод арыгінальных запісаў зместам і літ. вартасцямі вылучаецца *«Аповесць пра Жыгімонта і Барбару Радзівіл»*. У Л.Р. аб'яднаны «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»*, *«Аповесць пра Падолле»*, *«Пахвала Вітаўту»*, а таксама шэраг гіст. апавяданняў і летапісных звестак пра падзеі 14—1-й пал. 16 ст. Адкрыты ў 1846 В.Бадзянскім. Зберагаецца ў б-цы Рачынскага ў Познані (Польшча). Апублікаваны ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 35, 1980).

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»**, найбольш даўні помнік беларуска-літоўскага летапісання, адзін з першых твораў уласнабеларускай гістарычна-дакументальнай прозы. Напісаны на старабел. мове невядомым аўтарам у канцы 1420-х г. у Смаленску. Асн. змест — паліт. гісторыя ВКЛ ад смерці Гедзіміна (1341) да канца 14 ст., гал. ідэя — усхваленне цэнтралізатарскай палітыкі літ.-бел. князёў, абгрунтаванне гіст. неабходнасці і заканамернасці паліт. аб'яднання літ., бел. і укр. зямель у адной дзяржаве — ВКЛ. «Летапісец...» — аповесць-хроніка, складаецца з гіст. апавяданняў пра мінулае Літвы, Беларусі і Украіны. 1-я частка — аповесць пра Кейстута і яго барацьбу з Ягайлам (скончылася гвалтоўнай смерцю Кейстута). Яна напісана ў 1390-я г. з мэтай гіст. абгрунтавання права Вітаўта на вял. княжанне ў Вільні. Гэты твор свецкі паводле зместу, з займальным драматычна напружаным сюжэтам, адметны высокім літ. майстэрствам, лаканічнасцю і дынамічнасцю апавядання. 2-я частка «Летапісца...» больш фрагментарная, характарызуецца царк.-рэліг. афарбоўкай па-



дзей і складаецца з кароткіх апавяданняў пра паліт. жыццё ВКЛ апошняй чвэрці 14 ст., найбольш пра дзейнасць Вітаўта. Помнік — сінкрэтычны твор, спалучае рысы дзелавога дакумента, твора апавядальнай прозы і грунтуецца на сапраўдных гіст. фактах. Напісаны з новых, агульнадзярж. пазіцый як першая спроба кароткай гісторыі ВКЛ. Ён быў важным этапам у гісторыі летапісання на Беларусі, у ім упершыню ў бел. страж. л-ры пераадолены старыя літ. традыцыі — летапісная, пагадовая форма выкладу гісторыі. Поўная рэдакцыя ўключае яшчэ *«Аповесць пра Падолле»*. Збярогся ў розных спісах (Віленскім, Супрасльскім, Слуцкім, Красінскага, Рачынскага і інш.), летапісных зводах і гіст. кампіляцыях. У 15 ст. паслужыў асновай арыгінальнай часткі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446* і часткова выкарыстаны польскім храністам Я.Длугашам у «Гісторыі Польшчы». У 16 ст. ўвайшоў у склад 2-га бел.-літ. летапіснага зводу (гл. ў арт. *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*) і *Хронікі Быхаўца*, праз якія перайшоў у *«Хроніку польскую, літоўскую, жамойцкую і ўсяе Русі»* М.Стрыйкоўскага. Быў вядомы таксама ў Расіі, дзе не раз перапісваўся і перарабляўся (спісы Дуброўскага, Пагодзіна і інш.). Перакладзены на польскую, нямецкую, літ., лацінскую, рус. мовы. Упершыню апублікаваны ў 1823 І.Даніловічам у часопісе «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»).

*Літ.*: Гл. пры арт. *Летапісы беларускія*.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**летапісы**, гісторыка-літаратурныя творы з апісаннем падзей па гадах. Пагадовая форма выкладу гісторыі зарадзілася ў антычныя часы. У форме Л. складалі свае творы першыя гісторыкі Страж. Рыма. У эпоху сярэдневякоўя асн. відамі гіст. запісаў у Зах. Еўропе былі аналы і хронікі. У летапіснай форме напісаны гіст. працы Я.*Длугаша*, М.*Бельскага*, М.*Стрыйкоўскага* і інш. польскіх храністаў 15—16 ст. У працэсе станаўлення Л. прайшлі шлях ад лаканічных храналагічных запісаў да разгорнутага, каменціраванага апісання гісторыі; ад сухой, службова-дакументальнай рэгістрацыі асобных гіст. падзей і адзінкавых фактаў да звязнага, прасякнутага пэўнай ідэяй, эмацыянальна-вобразнага апавядання. Гісторыя далёкага мінулага нярэдка апісвалася паводле нар. вусна-паэтычных паданняў і легенд. Сярэдневяковыя летапісцы апісвалі пераважна вонкавы бок падзей і асвятлялі мінулае з пункту гледжання свецка-рыцарскіх або хрысціянска-аскетычных ідэалаў, прама ці ўскосна зыходзячы з царк.-рэліг. канцэпцыі свету. Складаліся Л. свецкімі і духоўнымі асобамі ў розным сац.-культ. асяроддзі, таму яны вельмі разнастайныя паводле зместу, ідэйнай накіраванасці, жанрава-стылявых асаблівасцей, формаў і спосабаў гіст. апавядання. У Зах. Еўропе традыцыйнае летапісанне (хранаграфія) заняпала ў эпоху Адраджэння са з'яўленнем новай свецкай гістарыяграфіі, заснаванай на гуманістычным светапоглядзе і традыцыях антычнай гіст. прозы.

На Русі Л. пачалі складаць у 11 ст. Вытокі страж.-рус. летапісання ў гіст. паданнях і дзелавой пісьменнасці, у вусна-паэт. і літ. традыцыях адлюстравання гісторыі. Яно выклікана да жыцця ідэйна-паліт. задачай культ.-гіст. развіцця ўсх. славян, бурным ростам іх грамадскай і этнічнай свядомасці ў перыяд актыўнага гіст. самасцвярджэння. У пач. 12 ст. ў Кіеве створаны выдатны агульнадзярж. і агульнарус. летапісны помнік — «Аповесць мінулых гадоў». Гэты твор паслужыў стымулам і асновай для зараджэння летапісання ў інш. гарадах і землях усх. славян. У 12—14 ст. Л. мелі пераважна мясцовы характар. Паўд.-рус. летапісанне гэтага часу прадстаўлена Кіеўскім і Галіцка-Валынскім летапісамі, наўгародскае — Наўгародскім 1-м, уладзіміра-суздальскае — Лаўрэнцьеўскім і Радзівілаўскім летапісамі. У 15 ст. ўзніклі летапісныя зводы: Троіцкі летапіс (пач. 15 ст.), *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*, звод 1448 і інш. Найб. цэнтрамі летапісання былі Кіеў, Масква, Ноўгарад, Смаленск і, магчыма, Полацк. На працягу 16—17 ст. характар летапіснага жанру якасна мяняецца. У Л. пачалі шырока карыстацца літ. вымыслам, узмацнілася белетрызацыя гіст. апавядання, яны сталі больш разнастайнымі паводле зместу, стылю, ідэйнай накіраванасці, ахопу гіст. падзей. У 17—пач. 18 ст. інтэнсіўна развівалася ўкр. летапісанне. Традыцыйнае летапісанне ў Расіі, на Беларусі і Украіне заняпала ў 18 ст. разам з завяршэннем страж. эпохі ў гісторыі літаратур усх.-слав. народаў.

Складанне Л. было справай палітычнай, і летапісцы выражалі інтарэсы і ідэйна-паліт. імкненні пэўнага сац. асяроддзя. Лепшыя страж.-рус. Л. — цэласныя гіст.-літ. творы, якія вызначаюцца майстэрствам апавядання, шырынёй гіст. погляду, высокай ідэйнасцю і публіцыстычнасцю. Падзеі і ўчынкі герояў у іх асветлены з пункту гледжання грамадскіх ідэалаў свайго часу, з пазіцый патрыятызму, гераізму і хрысціянскага гуманізму. Важную ролю яны выконвалі ў фарміраванні грамадскай думкі, гіст. і нац. самасвядомасці народаў. Як помнікі пісьменнасці эпохі сярэдневякоўя Л. маюць сінкрэтычны характар, спалучаюць асаблівасці літ. твораў і дзелавых дакументаў. Паводле жанравай структуры — гэта зводы, якія аб'ядноўваюць кароткія дзелавыя запісы, дакументы (лісты, граматы), летапісныя аповесці і апавяданні, літ. творы, запазычаныя з розных крыніц, што надае ім выгляд гіст.-літ. кампіляцый. У Л. эпохі Кіеўскай Русі пануючым быў стыль манументальнага гістарызму, пазней — дзелавой пісьменнасці і хранографаў. Гіст. падзеі і факты датаваліся ў Л. «ад стварэння свету», з 16 ст. ў бел. Л. датаванне вялося «ад нараджэння Хрыста» (розніца паміж дзвюма датамі складала 5508 гадоў).

Навук. даследаванне і выданне Л. пачалося ў 18 ст. Вывучэннем іх займаліся і займаюцца гісторыкі, літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, гісторыкі культуры. Вял. ўклад ў вывучэнне Л. зрабілі А.А.Шахматаў, Дз.С.Ліхачоў, М.М. Улашчык, якія прапанавалі новыя падыходы і метады даследавання. Вядома каля 1,5 тыс. розных летапісных спісаў. Большасць з іх зберагаецца ў архівах і б-ках Масквы і С.-Пецярбурга. Самыя выдатныя летапісныя помнікі выдадзены ў шматтомным «Поўным зборы рускіх летапісаў».

На Беларусі Л. вядомы з часоў Полацкага княства. Асаблівай папулярнасцю карысталіся «Аповесць мінулых гадоў» і Галіцка-Валынскі летапіс. Апошні паслужыў крыніцай і літ. узорам *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца*. У 15—17 ст. на Беларусі чыталі, перапісвалі і выкарыстоўвалі пры складанні летапісных зводаў і кампіляцый розныя рус. Л. У 2-й чвэрці 15 ст. маскоў-



скі Л. мітрапаліта Фоція быў пакладзены ў аснову агульнай часткі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446* і ў значнай меры прадвызначыў яго ідэйны змест, грамадска-паліт. накіраванасць і жанравую форму. У канцы 15 ст. гэты звод перапрацаваны і дапоўнены матэрыяламі, запазычанымі з Л. наўгародскіх. Наўгародскага паходжання і *Аўрамкі летапіс*. У 16—17 ст. на бел. землях бытаваў ілюстраваны *Радзівілаўскі летапіс*, пратограф якога паходзіў з Маскоўскай Русі. Ёсць звесткі, што на Беларусі ведалі пскоўскія, цвярскія і некаторыя інш. рус. Л., якія перапісваліся на мове арыгінала. Літ. традыцыі стараж.-рус. Л. адыгралі вял. ролю ў гісторыі бел. летапісання. Гл. таксама *Летапісы беларуска-літоўскія*, *Летапісы беларускія*.

*Літ.*: Иконников В.С. Опыт русской историографии. Т. 2. Киев, 1908; Шахматов А.А. Разыскания о древнейших русских летописных сводах. СПб., 1908; Его ж. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М.; Л., 1938; Приселков М.Л. История русского летописания XI—XV вв. Л., 1940; Лихачев Д.С. Русские летописи и их культурно-историческое значение. М.; Л., 1947; Рыбаков Б.А. Древняя Русь: Сказания, былины, летописи. М., 1963; Вайнштейн О.Л. Западноевропейская средневековая историография. М.; Л., 1964; Насонов А.П. История русского летописания XI—нач. XVIII века. М., 1969; Лурье Я.С. Общерусские летописи XIV—XV вв. Л., 1976.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**летапісы беларуска-літоўскія**. Складаліся на Беларусі і ў Вільні на старабел. мове пераважна бел. летапісцамі, бытавалі да 19 ст. Умоўна называюцца таксама заходнярускімі. Агульнадзярж. і паўафіцыйныя паводле зместу. У іх адлюстравана гісторыя бел. і літоўскага народаў перыяду ВКЛ. Вядомы 4 асобныя помнікі 15—16 ст.: *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»*, *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*, *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, *Хроніка Быхаўца* і гіст. кампіляцыя 17 ст. *«Хроніка літоўская і жамойцкая»*, якая ўваходзіць у склад бел.-укр. хранографа *«Вялікая хроніка»*. Паслужылі крыніцай польскіх хронік М.*Стрыйкоўскага*, А.*Гваньіні* і М.*Бельскага*, распаўсюджваліся таксама на Украіне і ў Расіі. Л.б.-л. — каштоўныя помнікі гістарыяграфіі і грамадска-паліт. думкі бел. і літ. народаў, старабел. мовы і бел. гіст. прозы. Выдадзены ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 32, 1975; т. 35, 1980). Гл. таксама *Летапісы беларускія*.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**летапісы беларускія**. Складаліся на землях Беларусі ў эпоху феадалізму на старажытнарус., старабел. і польскай мовах. У 16—18 ст. называліся пераважна хронікамі. Паводле зместу і агульнага характару падзяляюцца на дзяржаўныя і мясцовыя, аднак рэзкай мяжы паміж імі няма. Вытокі Л.б. у мясцовых гіст. паданнях і дзелавой пісьменнасці, у традыцыях гіст. прозы і летапісання Русі. Узнікненне і развіццё Л.б. цесна звязана з гіст. жыццём бел. народа, з надзённымі грамадска-паліт. праблемамі і тэндэнцыямі часу. Яны не толькі адлюстроўвалі падзеі мінулага, захоўвалі пра іх памяць для наступных пакаленняў, але і выконвалі важную ідэйна-публіцыстычную ролю ў фарміраванні грамадскай думкі і гіст. свядомасці. Як помнікі л-ры летапісы сінтэзавалі асаблівасці гіст. дакументаў і твораў свецкай апавядальнай прозы. На Беларусі летапісы пачалі складацца ў 12—14 ст., аднак тэксты ранніх летапісаў не зберагліся. Першым складзеным на бел. землях летапісным творам быў, відаць, Полацкі летапіс. Гіст. запісы вяліся таксама ў Пінску (канец 13 ст.), Слуцку (15 ст.) і інш. гарадах Беларусі. Ва ўрыўках у складзе рус. і бел. летапісных зводаў і кампіляцый дайшоў Смаленскі летапіс 14—пач. 15 ст. Да 15 ст. летапісанне Беларусі мела мясцовы характар. Своеасаблівым цэнтрам бел. летапісання ў 15 ст. быў Смаленск, які знаходзіўся тады ў складзе ВКЛ. Тут у канцы 15 ст. перапісаны *Аўрамкі летапіс* і, магчыма, *Радзівілаўскі летапіс*. На падставе зводу, блізкага да летапісу Аўрамкі, каля 1500 складзена летапісная кампіляцыя, якая трапіла ў Супрасль, дзе папоўнілася гіст. запісамі па гісторыі Валынскай зямлі канца 15 ст., апавяданнем пра Аршанскую бітву 1514 і «Пахвалой гетману Канстанціну Астрожскаму» (гл. *Валынскі кароткі летапіс*). У 15—16 ст. пад уплывам новых гіст. умоў (заканчэнне этнічнай кансалідацыі і паліт. цэнтралізацыі бел. зямель) характар летапісання Беларусі істотна змяніўся, мясцовыя летапісы занялалі, узніклі агульнадзярж. *летапісы беларуска-літоўскія*, якія складаліся на бел. мове пераважна бел. летапісцамі. З новых агульнадзярж. пазіцый пададзены гіст. падзеі ў *«Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх»* — першай арыгінальнай спробе кароткай гісторыі Літвы і Беларусі. Разам з летапісам Фоція ён лёг у аснову першага бел.-літ. летапіснага зводу, складзенага каля 1430-х г. у Смаленску ў перыяд найвышэйшай магутнасці ВКЛ, дапоўненага пазней гіст. запісамі да 1446 уключна (гл. *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*). У гэтых творах адлюстраваны і ідэалагічна абгрунтаваны імкненні і погляды перадавых грамадскіх сіл Беларусі і Літвы таго часу, што падтрымлівалі велікакняжацкую ўладу ў барацьбе з феад. раздробленасцю за паліт. адзінства і магутнасць краіны. У 15 ст. якасна змяніўся і характар жанру Л.б. Спецыфічнай яго асаблівасцю стала спалучэнне традыцыйнай, пагадовай формы выкладу з прагматычным, звязным апавяданнем пра мінулае, кароткіх дакументальных запісаў-паведамленняў з гіст. аповесцямі, сухой інфармацыі пра падзеі з жывым, белетрыстычным іх апісаннем. Летапісанне ў ВКЛ вялося нерэгулярна. Асобныя гіст. аповесці на пэўных этапах дапаўняліся новым матэрыялам і аб'ядноўваліся ў летапісныя зводы, якія складаліся традыцыйна, без творчай перапрацоўкі тэксту. Пад уплывам свецкай дзелавой пісьменнасці быў выпрацаваны своеасаблівы стыль Л.б. — лаканічны, выразны, дзелавы.

У 16 ст. бел.-літ. летапісы страцілі агульнарус. характар. У іх узмацніліся ідэі агульнадзярж. патрыятызму, гісторыя ВКЛ стала падавацца не як арганічная частка і працяг гісторыі Русі, а як асобная і самацэнная з'ява. Адбывалася актыўная белетрызацыя гіст. апавядання, у летапісы пачалі ўключаць вусна-паэт. легенды і паданні, уводзіць літаратурны вымысел. У 1520-я г. створана *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* (распаўсюджвалася ў складзе 2-га аднайменнага зводу), у якой была літаратурна апрацавана легенда пра паходжанне літоўскіх князёў і шляхты ад рымскай знаці. Важным этапам у развіцці бел. гіст. прозы стараж. пары стала *Хроніка Быхаўца* (2-я чвэрць 16 ст.)—самы поўны звод агульна-



дзярж. летапісаў і хронік. У гэтым помніку асабліва выразна выявілася тэндэнцыя да белетрызацыі гісторыі, што садзейнічала далейшай эвалюцыі гіст.-дакументальных запісаў на Беларусі ад традыцыйнага летапісу да гіст.-мастацкай прозы. Свецкія паводле зместу і сярэдневяковыя паводле характару, ананімныя і напаўафіцыйныя бел.-літ. летапісы і хронікі складаліся ў асяроддзі феадалаў, таму падзеі ў іх адлюстроўваліся з пункту гледжання пануючага класа, у святле рыцарскіх ідэалаў і з пазіцыі агульнадзярж. інтарэсаў. Гал. герой гэтых твораў — дзейны і актыўны вял. князь, мужны абаронца роднай зямлі, храбры воін і мудры валадар, справы і ўчынкі якога выяўлялі гіст. неабходнасць часу, яго вядучыя грамадска-паліт. тэндэнцыі. Агульнадзярж. бел.-літ. летапісы і хронікі заняпалі ў 2-й пал. 16 ст. ў выніку страты ВКЛ дзярж. незалежнасці, аднак яны яшчэ доўга бытавалі на Беларусі, давалі багаты матэрыял для розных гіст.-літ. кампіляцый, уплывалі на развіццё бел. гіст. прозы эпохі барока, польскай і літ. гістарыяграфіі.

Новы этап у гісторыі бел. летапісання пачаўся ў 17 ст. У выніку глыбокіх унутраных змен у культ.-гіст. і духоўным жыцці бел. народа адбывалася ідэйна-маст. эвалюцыя і трансфармацыя жанру гіст.-дакументальнай прозы Беларусі, яго дэмакратызацыя. Замест параўнальна аднародных у жанрава-стылявым плане агульнадзярж. хронік узніклі новыя жанры — мясцовыя летапісы, *дыярыушы* (дзённікі) і хранографы, звязаныя з літаратурнымі традыцыямі летапіснага жанру папярэдняга перыяду. Паступова змяняліся змест, ідэйная накіраванасць твораў, формы і спосабы выкладу падзей, характар адлюстравання мінулага. Летапісцы сталі больш глыбока і непасрэдна цікавіцца жыццём народа, яго побытам і звычаямі, падзеі пачалі апісвацца больш разгорнута і дэталёва, асвятляцца з дэмакратычных пазіцый праз асабістае эмацыянальна-суб'ектыўнае ўспрыняцце аўтараў.

Найб. выдатныя творы мясцовага летапісання Беларусі 17—18 ст. — *Баркулабаўскі летапіс* і *Магілёўская хроніка*, якая месцамі нагадвае гіст. аповесць-дзённік горада. Як гіст.-дакументальная крыніца напісаны папольску *Віцебскі летапіс*. Тыповай з'явай эпохі барока былі творы гіст.-мемуарнага жанру — дыярыушы, што ўзніклі ў выніку ўзмацнення асабовага пачатку ў бел. л-ры, павышэння цікавасці да індывідуальнага лёсу звычайнага чалавека, больш глыбокага разумення каштоўнасці яго асабістага жыцця («Дзённік» Ф.Еўлашоўскага, дыярыушы С. і Б. Маскевічаў, С.Незабітоўскага, К.Завішы, М.Матушэвіча і інш.). Рост цікавасці бел. чытачоў да гераічнага мінулага інш. краін і народаў у 17—18 ст. задавальнялі хранографы і перакладныя хронікі. Папулярнасцю на Беларусі карысталіся польскія хронікі М.Бельскага, М.Стрыйкоўскага, А.Гваньіні, у арыгінале і ў перакладзе на бел. мову. Гэтыя хронікі склалі аснову бел.-укр. хранографа *«Вялікая хроніка»*. У хранографах выкарыстоўваліся гіст.-дакументальныя (летапісы і хронікі) і літ.-мастацкія (перакладныя гіст. аповесці) матэрыялы, таму ў іх спалучана традыцыйнае, летапісна-гістарыяграфічнае асвятленне мінулага з эмацыянальна-вобразным яго адлюстраваннем. Хранографы — па-сутнасці апошні, завяршальны этап у гісторыі традыцыйнага летапісання і адначасова пачатак уласна гіст. прозы ў бел. стараж. л-ры.

Л.б. маюць вял. культ.-гіст. значэнне як каштоўная крыніца вывучэння багатага і гераічнага гіст. мінулага бел. народа, як арыгінальная з'ява еўрапейскай гістарыяграфіі, як помнікі бел. л-ры, бел. літаратурнай мовы і грамадска-паліт. думкі эпохі феадалізму. Прыярытэт іх адкрыцця і навук. вывучэння належыць І.Даніловічу, які ўпершыню апублікаваў (у 1823—24) тэкст Бел.-літ. летапісу 1446 паводле Супрасльскага спісу і шэраг артыкулаў. У часы Рас. імперыі Л.б. даследавалі С.Смолька, Ф.Сушыцкі, І.А.Ціхаміраў, А.А.Шахматаў, Я.Якубоўскі і інш. Летапісы вывучалі і вывучаюць бел. (М.М.Улашчык, В.А.Чамярыцкі), літ. (М.Ючас) і інш. даследчыкі. Захавалася каля 50 спісаў Л.б., большасць з якіх зберагаецца ў Маскве і С.-Пецярбургу. Выдадзены ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 32, 1975; т. 35, 1980) і інш.

*Літ.*: Smolka S. Naidawniejsze pomniki dziejopisarstwa rusko-litewskiego: Rozbiór krytyczny. Kraków, 1889; Иконников В.С. Опыт русской историографии. Киев, 1908. Т. 2, кн. 2. С. 1489—1559; Сушицький Т. Західньоруські літописи як пам'ятки літератури. Київ, 1930; Jučas M. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968; Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Капыскі З.Ю. Беларуска-літоўскія летапісы XV—XVI стст. як помнікі гістарычнай думкі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1986. № 4.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**летапісы наўгародскія**, помнікі старажытнарускага летапісання 12—17 ст. Складаліся ў Ноўгарадзе. Вядомы 5 асобных летапісных помнікаў, якія захаваліся ў шматлікіх спісах. З іх найб. старажытныя і каштоўныя Наўгародскі 1-ы (звесткі даведзены да 1-й пал. 14 ст.) і Наўгародскі 4-ы (да 2-й пал. 15 ст.). Вылучаюцца змястоўнасцю, дакументальнай дакладнасцю, лаканічнасцю і дэмакратычнасцю мовы і стылю. Адлюстроўваюць грамадска-паліт. і культ. жыццё Ноўгарада, яго сувязі з Псковам, Масквою, ВКЛ, Лівоніяй і інш. гарадамі і землямі. Падзеі апісаны ў пагадовай форме і асветлены з пазіцый агульнанар. патрыятызму. Л.н. пачынаюцца «Аповесцю мінулых гадоў» і змяшчаюць апрача арыгінальных мясцовых звестак гіст.-дакументальны і літаратурны матэрыял пра мінулае Русі, запазычаны з інш. стараж.-рус. крыніц. Летапісы багатыя звесткамі па гісторыі Беларусі і ВКЛ, асабліва Наўгародскі 4-ы летапіс, што паслужыў адной з асн. крыніц 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*. На падставе Л.н. складзена агульнарус. частка летапіснага зборніка 1-й пал. 16 ст., які захоўваўся і дапаўняўся гіст. запісамі ў Супраслі (гл. *Супрасльскі рукапіс*). У 15—17 ст. на бел. землях бытавалі і інш. Л.н. і розныя летапісныя кампіляцыі наўгародскага паходжання (напр., *Аўрамкі летапіс*).

*Публ.*: Новгородские летописи. СПб., 1879; Полное собрание русских летописей. Т. 4, ч. 1—2. Пг.; Л., 1915—29; Т. 30. М., 1965; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950; Новгородская харатейная летопись: (Текст). М., 1964.

*Літ.*: Лихачев Д.С. Русские летописи и их культурно-историческое значение. М.; Л., 1947.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***



**летапісы пскоўскія**, летапісныя зборы, якія складаліся ў Пскове ў 14—17 ст. Змяшчаюць багаты матэрыял па гісторыі горада, краіны, пра народ Прыбалтыкі, барацьбу з ням. рыцарамі, адносіны паміж Псковам і ВКЛ. У аснове Л.п. ляжыць летапісны збор 1450—60-х г., складзены на падставе летапісных запісаў, якія вяліся пры Троіцкім саборы з 14 ст., афіцыйных дакументаў, матэрыялаў наўгародскіх збораў, звестак з ВКЛ, Прыбалтыкі і Смаленска, мясцовых крыніц і літаратурных помнікаў. Выяўлена 25 спісаў Л.п., якія падзяляюцца на 3 групы — Пскоўскія 1-ы, 2-і і 3-і летапісы. Пскоўскі 1-ы летапіс вядомы ў 5 спісах і прадстаўлены ў 2 рэдакцыях — Ціханаўскім і Архіўскім 1-м спісамі. У аснове яго зборы 1469 і 1481; звесткі па Пагодзінскім спісе даведзены да 1547, па Абаленскім і Архіўскім 3-м да пач. 17 ст. У 1-м Л.п. прыведзены звесткі пра неўраджаі, эпідэміі, інфармацыя пра гарады, пасаднікаў, суд, узаемаадносіны з Масквой і Ноўгарадам. Пскоўскі 2-і летапіс прадстаўлены Сінадальным спісам — копіяй са збору 1486; змяшчае скарочаныя тэксты стараж. летапісаў, матэрыял, які адсутнічае ў інш. летапісах, у т.л. вусныя сведчанні сучаснікаў (звесткі пра будаўніцтва з сумамі затрат, войны, эпідэміі). Пскоўскі 3-і летапіс прадстаўлены Строеўскім спісам збору 1567, а ў больш позняй рэдакцыі Архіўскім 2-м. 3-і Л.п. дае шматлікія звесткі пра барацьбу з Лівонскім ордэнам і дачыненні з ВКЛ, у адрозненне ад 1-га адлюстроўвае апазіцыйны Маскве пункт гледжання. Напісаны ў Пскова-Пячэрскім манастыры пры ігумене Карнілію, які быў блізкі да кн. А.М.*Курбскага*.

*Публ.*: Псковские летописи. Вып. 1—2. М.; Л., 1941—55.

*Літ.*: Насонов А.Н. Из истории псковского летописания // Исторические записки. М., 1946. Т. 18.

**летапісы смаленскія**, летапісныя творы, якія складаліся ў *Смаленску* ў 13—15 ст. Летапіс, які вёўся ў канцы 13—пач. 15 ст., вядомы па ўрыўках, што захаваліся ў рус. і бел. летапісных зводах 15—16 ст. Прысвечаны пераважна гісторыі Смаленскай зямлі і часткова ВКЛ (звесткі аб паходзе вял. кн. Альгерда і смаленскага кн. Святаслава на Маскву ў 1370, *Мсціслаўскую бітву 1386*, *бітву на Ворскле 1399*, вяртанне ў Смаленск кн. Юрыя Святаславіча, яго смерць у 1407 і інш.). Падзеі ў летапісе асветлены з мясцовых пазіцый. Яго аўтары — выразнікі інтарэсаў смаленскіх феадалаў, патрыёты роднай зямлі. Твор прасякнуты ідэяй сцвярджэння паліт. самастойнасці Смаленскага княства, у асобных месцах мае антылітоўскую накіраванасць. Усяго вядома каля 70 гіст. запісаў канца 13—пач. 15 ст., звязаных са Смаленскам, аднак некаторыя з іх не смаленскага паходжання, а ўзніклі ў Маскве або Ноўгарадзе. Летапіс складзены ў традыцыйнай форме як збор дзелавых пагадовых запісаў і гіст. апавяданняў, размешчаных у храналагічнай паслядоўнасці. Адна з крыніц рус. летапісаў 15 ст., у прыватнасці Троіцкага летапісу (звод Кіпрыяна 1408), і праз іх *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*.

У 2-й чвэрці 15 ст. ў Смаленску ўзнік шэраг летапісных твораў (2-я частка *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»*, Смаленская хроніка і інш.), якія мелі характар помнікаў не мясцовага смаленскага, а агульнадзярж. бел.-літ. летапісання. Смаленская хроніка напісана, відаць, у канцы 1420—пач. 30-х г. у асяроддзі таго правасл. духавенства, дзе ўзнікла *«Пахвала Вітаўту»* і складаўся Бел.-літ. летапіс 1446. Змешчана ў розных спісах апошняга. Ахоплівае перыяд 1430—36. Прысвечана апісанню падзей у ВКЛ пасля смерці ў 1430 вял. кн. Вітаўта, барацьбы за велікакняжацкую ўладу паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Адкрываецца кароткім апавяданнем пра каранацыйны з'езд Вітаўта. Аўтар хронікі — прыхільнік Жыгімонта Кейстутавіча. Падзеі ў творы выкладзены бегла, па-дзелавому суха.

У 1495 у Смаленску быў перапісаны *Аўрамкі летапіс*, а ў канцы 15 ст., паводле меркаванняў некаторых вучоных, — *Радзівілаўскі летапіс.*

*Літ.*: Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969. С. 78—134; Муравьёва Л.Л. Летописание Северо-Восточной Руси конца XIII—начала XV века. М., 1983. С. 245—274.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**летапісы ўкраінскія**, помнікі літаратуры і гістарычнай думкі Украіны 15—18 ст. Летапісанне, якое ўзнікла на ўкр. землях у 11 ст., апынулася ў заняпадзе ў 14—15 ст. У 16 ст. складзены *Валынскі кароткі летапіс*, які ўтрымлівае звесткі па гісторыі Валыні. Уздым летапісання на Украіне адбываўся ў 1-й пал. 17 ст. ў сувязі з культурным і грамадскім уздымам. Летапісцы гэтага часу выкарыстоўвалі звесткі страж.-рус., бел.-літ. летапісаў, польскіх храністаў А.Гваньіні, М. і І. Бельскіх, М.Стрыйкоўскага, мемуарных твораў. Асн. ўвага ў Л.ў. аддавалася асвятленню ўнутрыпаліт. падзей, адносінам з цэнтр. уладамі ВКЛ і Польшчы, адносінам з інш. дзяржавамі, барацьбе з татарскімі нападамі на ўкр. землі. Значнае месца адведзена сял.-казацкім паўстанням і вызваленчай вайне 1648—54. Шмат увагі аддадзена царк. гісторыі, становішчу правасл. царквы, барацьбе з царк. уніяй. Вылучаецца група летапісаў, створаных у асяроддзі казацтва і прысвечаных яго дзейнасці (гл. *Летапісы казацкія*). Большасць Л.у. напісана мовай, блізкай да ўкр. размоўнай. У пач. 17 ст. ў Кіеве (?) складзены Густынскі летапіс («Кройника», збярогся ў спісе, перапісаным у 1670 іераманахам Густынскага манастыра на Чарнігаўшчыне М.Ласіцкім). Ён утрымлівае звесткі ад часоў Кіеўскай Русі да 1597, у канцы змешчаны самастойныя раздзелы «Пра паходжанне казакоў», «Пра ўвядзенне новага календара», «Пра пачатак уніі». Летапіс мае выразную антыпольскую і антыуніяцкую скіраванасць. Густынскі манастырскі летапіс («Летописец об основании и создании монастыря Густынского») ахоплівае 1600—40 і асвятляе гісторыю Густынскага манастыра як аднаго з цэнтраў барацьбы супраць царк. уніі і каталіцтва, расказвае пра дзейнасць гетмана П.Сагайдачнага па аднаўленні правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай. У 1-й пал. 17 ст. невядомым аўтарам (ці групай аўтараў) складзены зборнік «Летапісцы Валыні і Украіны», які мае 12 раздзелаў. Выкладанне тут гісторыі Украіны звязана з гісторыяй ВКЛ, Польшчы, Расіі і даведзена да 1621. Асветлены ў асн. знешнепаліт. падзеі, да казацтва аўтар ставіцца адмоўна. Астрожскі летапісец напісаны ў канцы 1630-х г. жыхаром г. Астрог. Ахоплівае падзеі 1500—1636. 1-я частка (да 1597) — кампіляцыя звестак з хронікі Бельскіх, 2-я частка напісана на аснове асабістых назіран-



няў аўтара, які выступаў супраць царк. уніі, са спачуваннем да простых людзей апісаў сял.-казацкія выступленні, даў звесткі з культ. жыцця. Асн. ўвага ў творы аддадзена роду князёў Астрожскіх. Львоўскі летапіс (назва ўмоўная, бо ён знойдзены ў пач. 19 ст. ў Львове) складзены ў 1-й пал. 17 ст., захаваўся ў складзе рукапіснай кнігі кіеўскага протаіерэя М.І.Гунашэўскага. Невядомы аўтар асвятляе падзеі 1498—1649. Да 1630 гэта кароткія заметкі, пасля пераважае падрабязнае апісанне падзей, сведкам якіх быў аўтар. У летапісе шмат звестак пра сял. выступленні на чале з Т.Федаровічам (1630), П.Паўлюком і Я.Астранінам (1637—38), аўтар становўча ставіцца да казацкіх вярхоў, асуджае царк. унію. У аснове створанага ў 1673 «Летапісца» Дварэцкіх ляжыць «Кройніка аб зямлі Польскай» Ф.Сафановіча, часткова — Львоўскі летапіс. Твор ахоплівае 1340—1672, асн. месца адводзіць вызваленчай вайне 1648—54, наступным ваенным падзеям. Межыгорскі летапіс ахоплівае падзеі 1608—1700 і складзены, як мяркуецца, былым запарожцам, што дажываў свой век у Межыгорскім манастыры каля Вышгарада (Кіеўшчына). Складаецца з 41 расказа, у якіх шмат звестак пра сял.-казацкія выступленні, вызваленчую вайну 1648—54, пра стыхійныя бедствы. Складзены ў 1730-х г. невядомым аўтарам летапіс «Кароткае апісанне Маларосіі» асвятляе гісторыю Украіны са стараж. часоў да 1734. Гал. ўвага аддадзена вызваленчай вайне сярэдзіны 17 ст., войнам са шведамі і татарамі. У аснову твора пакладзены казацкі летапіс Р.Г.Грабянкі, новыя факты ў «Апісанні» сустракаюцца пераважна ў звестках за 1730-я г., калі аўтар выкарыстоўвае ўласныя назіранні і сведчанні відавочцаў. Аўтар, відаць, належаў да казацкай старшыны, бо негатыўна ставіцца да антыфеад. руху, абараняе прывілеі вярхоў казацтва. Лізагубаўскі летапіс складзены ў 1742 генеральным абозным Я.Я.Лізагубам. Яго крыніцамі пра выкладанні падзей да канца 17 ст. былі казацкія летапісы, з 1690-х г. — сямейныя запісы Лізагубаў. У летапісе змешчаны невял. расказы па асобных сюжэтах: пра гетманаў, удзел казакоў у Паўн. вайне 1700—21, пабудову Кіева-Пячэрскай крэпасці і інш. Казацкая старшына паказана як лаяльная да царскага ўрада, але аўтар адстойвае ідэю аўтаноміі Украіны. «Хроніка Матронінскага манастыра» — кароткі казацкі летапіс, складзены ў Матронінскім Троіцкім манастыры каля Чыгірына. Ахоплівае 1516—1749, перавагу аддае казацкаму руху, барацьбе за гетманскую ўладу. У 1777 у Пецярбургу В.Р.Рубан выдаў «Кароткі летапіс Малой Расіі з 1506 па 1770 год». Гэты твор — кампіляцыя звестак з розных летапісаў і хронік 16—18 ст., у ім выкарыстана «Кароткае апісанне Маларосіі», пасля выкладзены падзеі 1735—70, прыведзены спісы розных адм. асоб.

*Літ.*: Летопись монастыря Густынского // Чтения в О-ве истории и древностей Российских. 1848. № 8; Южнорусские летописи. Т. 1. Киев, 1856; Летопись Самовидца по новооткрытым спискам. Киев, 1878; Сборник летописей, относящихся к истории Южной и Западной Руси. Киев, 1888; Бевзо О.А. Львівський літопис і Острозький літописець. Київ, 1971; Мыцык Ю.А. Украинские летописи XVII в. Днепропетровск, 1978; Его ж. «Літописець» Дворецких — памятник украинского летописания XVII в. // Летописи и хроники. М., 1984; Апанович Е.М. Рукописная светская книга XVIII в. на Украине. Киев, 1983; Ковальский Н.П., Мыцык Ю.А. Украинские летописи // Вопросы истории. 1985. № 10; Софонович Ф. Хроніка з літописців стародавніх. Київ, 1992; Полное собрание русских летописей. Т. 40. Густынская летопись. СПб., 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**летапісы цвярскія**, летапісы 15—16 ст., складзеныя ў Цвяры. Змяшчаюць звесткі па гісторыі Цвяры, Масквы, Ноўгарада, Пскова, пра адносіны гэтых зямель з ВКЛ. Мяркуецца, што 1-ы цвярскі летапісны збор складзены ў 1375, 2-і — у 1409. Непасрэдна Л.ц. не захаваліся (акрамя фрагмента за 1314—44), значныя цвярскія летапісныя матэрыялы ёсць у Цвярскім зборніку (Цвярскім летапісу), Рагожскім летапісцы і «Пахвальным слове аб благаверным князю Барысе Аляксандравічу» інака Фамы. У Цвярскі зборнік — летапіс 16 ст. — уключаны значныя фрагменты цвярскога летапісання канца 13—канца 15 ст.; захаваўся ў 3 спісах 17 ст., напісаных на бел. ці ўкр. землях (Пагодзінскі, Забелінскі і Талстоўскі). Утрымлівае звесткі з Цвярскога збору 1375 і пазнейшыя звесткі да 1486, калі Цвер была далучана да Маскоўскай дзяржавы. Рагожскі летапісец — летапіс 1-й пал. 15 ст., вядомы ў адным спісе. Яго звесткі за 1288—1327 падобныя з тэкстам Цвярскога зборніка, звесткі за 1328—1374 таксама ў значнай частцы ўзяты з крыніцы, блізкай да Цвярскога зборніка.

*Літ.*: Инока Фомы слово похвальное о благоверном великом князе Борисе Александровиче. СПб., 1908; Насонов А.Н. Летописные памятники Тверского княжества // Изв. АН СССР. Сер. 7. 1930. № 9; Его ж. О тверском летописном материале в рукописях XVII в. // Археографический ежегодник за 1957 г. М., 1958; Полное собрание русских летописей. Т. 15. М., 1965; Прохоров Г.М. Центрально-русское летописание второй половины XIV в.: (Анализ Рогожского летописца и общие соображения) // Вспомогательные исторические дисциплины. Л., 1978. Т. 10.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Летопис, то ест кройника великая з розных многих кройникаров диалектом руским написана»**, гл. *«Вялікая хроніка»*.

**Лёзна** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Лёзненскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Віцебскім пав., на левым беразе р. Мошна. Знаходзілася ў Мікулінскай вол. Заснавана, відаць, у пач. 17 ст. Багданам Мацвеевічам Агінскім. Пры падзеле яго спадчыны ў 1625 Л. атрымаў яго сын Самуэль. У 1654 упамінаецца як мястэчка. Пасля смерці С.Б.Агінскага ў 1657 адбыўся падзел уладанняў паміж яго сынамі, Л. атрымаў старэйшы сын, ваявода мсціслаўскі Шыман Кароль, які валодаў мястэчкам да 1699. Пасля яго смерці мястэчка было падзелена паміж яго сынамі Багуславам, Марцыянам Міхалам і Аляксандрам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**лёзныя**, гл. ў арт. *Людзі*.

**ліберум вета** (лац. liberum veto вольнае «не дазваляю»), права, якое мелі соймавыя дэпутаты ў Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 16—18 ст. Выражалася ў выкрыку дэпутата «не дазваляем» або «пратэстуем», што вяло да спынення пасяджэння сойма і адмены ўсіх прынятых на ім пастаноў. У 1589 адна-

галоссе прызнана абавязковай умовай прыняцця соймавых пастаноў. У 1666 Л.в. пашырана на ваяводскія соймікі. У 1652 сойм упершыню сарваны адным дэпутатам — упіцкім паслом В.Сіцынскім. У 1-й пал. 18 ст. ў час праўлення Аўгуста II [1697—1706 і 1709—33] пасяхова закончыліся толькі 4 соймы, пры Аўгусце III [1733—63] — толькі адзін. У 1652—1764 з 55 соймаў сарвана 48. Значная частка шляхты лічыла Л.в. сведчаннем сваёй шляхецкай вольнасці, але на практыцы яно выкарыстоўвалася магнатамі для блакіравання непажаданых пастаноў, дазваляла суседнім дзяржавам умешвацца ва ўнутр. справы Рэчы Паспалітай, садзейнічала пашырэнню і ўсталяванню паліт. анархіі. Соймавая рэформа 1768 абмежавала Л.в. толькі ў адносінах да другарадных пытанняў. Л.в. ліквідавана *Канстытуцыяй 3 мая 1791*.

*Літ.*: Konopczyński W. Liberum veto: Studium porównawczo-historyczne. 2 wyd. Kraków, 2002.

**Лівонія**, гл. *Інфлянты*.

**Лівонская вайна 1558—83**, гл. *Інфлянцкая вайна 1558—1582*.

**Лівонскі ордэн**, гл. *Інфлянцкі ордэн*.

**лівонскія хронікі**, гл. *Інфлянцкія хронікі*.

**Ліда** (цяпер горад, цэнтр Лідскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Лідскага павета*. Найб. ранція археалагічныя матэрыялы, выяўленыя на тэр. горада (фрагменты керамікі), датуюцца 14 ст., што сведчыць аб сінхроннасці пасялення, што ўзнікла ў сутоках рэк Лідзейка і Каменка (цяпер не існуе) і *Лідскага замка*. У 1-й пал. 14 ст. (у першую чаргу дзякуючы замку) з'яўляецца адным з рэгіянальных ваенна-адм. цэнтраў ВКЛ. Пасля смерці вял. кн. Гедзіміна (1341) Л. ў складзе Трокскага княства дасталася Кейстуту, аднак ужо ў 1346 перададзена Альгерду, відаць, у сувязі са стратэгічна важным становішчам замка на паўд. і паўд.-зах. напрамках (Вільня—Навагародак і Вільня—Гародня). У 1370-х г., незадоўга да смерці, Альгерд перадаў Л. свайму набліжанаму (выхадцу «з халопаў») Вайдыле, які стаў бліжэйшым дарадчыкам і новага вял. кн. Ягайлы, з якім ён



Герб **Ліды**. 1590.

нават парадніўся, атрымаўшы ў жонкі яго сястру Марыю. Вайдыла, які, відаць прымаў актыўны ўдзел у барацьбе Ягайлы і Кейстута, у 1382 у перыяд нядоўгага знаходжання апошняга на велікакняжацкім пасадзе, быў пакараны смерцю. Л. часта згадваецца ў кантэксце падзей апошніх дзесяцігоддзяў 14—пач. 15 ст. Пасля Крэўскай уніі 1385 жыццёва важным было бесперашкодная сувязь паміж 2 сталіцамі — Кракавам і Вільняй. Л. была бліжэйшым да Вільні населеным пунктам у напрамку Ваўкавыск—Гародня—Берасце—Люблін—Кракаў, які меў замкавы комплекс еўрапейскага тыпу, моцна ўмацаваны і досыць камфартабельны. У сувязі з гэтым Л. служыла месцам прыпынку Ягайлы ў яго частых паездках, была месцам важных сустрэч, перагавораў і ўрачыстасцей. Тут адбылася прысяга Скіргайлы як намесніка ВКЛ (1387), выдача дзярж. грамат, звязаных з хрышчэннем Літвы (1387, 1389), урачыстасці з удзелам замежных паслоў у сувязі са шлюбам Ягайлы і Соф'і Гальшанскай (1421). Несумнеўна, усё гэта спрыяла росту і развіццю горада. У той жа час са стратэгічна важным палажэннем Л. былі звязаны спусташэнні горада ў перыяд міжусобнай барацьбы Вітаўта і Ягайлы, а пазней Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча. У 1392 тэўтонскія рыцары ў саюзе з Вітаўтам спалілі Л. (передзамча) і захапілі замак, пакінуты без бою братам Ягайлы Карыбутам, які атрымаў Л. разам з Навагародкам у 1391. Паводле Т.Нарбута, у 1406 Л. спалена войскам былога смаленскага кн. Юрыя Святаславіча, які спрабаваў узяць замак, каб вызваліць сваёй жонку і дзяцей, што знаходзіліся ў палоне ў Вітаўта. У 1433



(1434?) войскі Свідрыгайлы не змаглі ўзяць замак, а горад быў зноў спалены. У часы панавання Вітаўта Л. працягвала заставацца важным ваенна-адм. цэнтрам ВКЛ. У 1396—98 у Л. жыў са сваім дваром выгнаны Цімурам хан Залатой Арды Тахтамыш, у 1411—12 — яго сын Джэлал-ад-Дзін, які камандаваў татарскімі атрадамі войска ВКЛ у Грунвальдскай бітве 1410, у 1434—43 — унук (?) Тахтамыша Аза-Гірэй. Старастам Л. ў 1-е дзесяцігоддзе 15 ст. Нарбут называе Якуба з Сеціцы. У часы панавання Казіміра і Аляксандра ўладу ў Л. і Лідскім пав. здзяйсняюць велікакняжацкія намеснікі (з 1-й пал. 16 ст. дзяржаўцы). З 1413 Л. ў складзе Віленскага ваяв., часта згадваецца ў ліку «віленскіх двароў», хоць, паводле М.К.Любаўскага, прамых указанняў на яе падпарадкаванасць віленскаму ваяводзе ў дакументах няма. С.Александровіч на аснове згаданых у грамаце вял. кн. Казіміра «данин ... с корчом лидских» (1486) залічае Л. ў разрад гар. цэнтраў ВКЛ. Аднак нязначны эканам. патэнцыял Л. досыць ясна характарызуецца памерамі падатковых выплат. Напрыклад, у 1566—67 уся Лідская дзяржава прыносіла прыбытак у 94 капы і 11 грошаў, а сярэбшчына з Л. ў 1551 складала 20 коп, такім чынам, Л. знаходзілася ў 5-м дзесятку гарадоў ВКЛ.

Пабудова першай правасл. царквы ў Л., паводле Нарбута, сінхронна ўзвядзенню замка (1320-я г.), дзе яна і знаходзілася. У 1360-х г. у Л. існавала францысканская місія, а ў 1387 Ягайла заклаў у Л. адзін з першых касцёлаў у ВКЛ. Касцёл знаходзіўся на падзамчы і згарэў у 1392 пры нападзе крыжакоў. У 1397 пабудаваны новы касцёл, пры якім зноў адчынена францысканская місія. Гэты касцёл згарэў у 1406, калі Л. была спустошана смаленскім кн. Юрыем Святаславічам. У 1524 згадваецца аб існаванні ў Л. яшчэ адной правасл. царквы, акрамя замкавай. Апошняя ў 1533 была перанесена з замка ў горад і асвечана ў імя св. Георгія. У сярэдзіне 16 ст. ў Л. з'явіліся кальвіністы, прычым іх колькасць неўзабаве так павялічылася, што Лідскі касцёл быў некаторы час зачынены з-за недахопу вернікаў.

У 1565—66 Л. стала цэнтрам павета Віленскага ваяв., які павялічыўся за кошт памежных тэрыторый Троцкага ваяв. (Эйшышкі, Радунь, Васілішкі і інш.). 17.9.1590 Л. атрымала каралеўскую грамату на самакіраванне паводле магдэбургскага права, герб, права на штотыднёвыя таргі і 2 кірмашы ў год (пацвярджальныя граматы былі выдадзены ў 1640, 1670 і 1729). У 1655 Л. захоплена казацкімі атрадамі Залатарэнкі, у 1657—58 у горадзе была эпідэмія, у 1559 спалены войскам кн. І.А.Хаванскага (замак быў узяты штурмам). З прычыны поўнага заняпаду Л. ў 1676 вызвалена на 4 гады ад усіх дзярж. падаткаў і павіннасцей. У 1670 адбыўся вял. пажар. У інвентары 1680 пералічаны структураўтваральныя элементы горада: замак; замкавы (старасцінскі) двор за ручаём Каменка (раён сучасных вул. Камсамольскай, Чапаева, Астроўскага), прадмесце Зарэчча за ракой Лідзеяй (раён сучасных вул. Энгельса, Калініна, Беларускай) і ўласна горад — рынак і 4 вуліцы (тэрыторыя на Пн ад замка, паміж сучаснымі вул. Савецкай, Ламаносава, Перамогі і Фабрычнай). У пач. 17 ст. ўпамінаюцца яшчэ 2 правасл. царквы: Прачысценская ў Зарэччы і св. Спаса ў горадзе. Апошняя была аднята «на унію», але ў 1633 вернута праваслаўным каралеўскім указам у ліку 19 інш. цэркваў і манастыроў ВКЛ. У 1672 у Л. заснаваны кармеліцкі кляштар. Асн. заняткам гараджан было земляробства, рамеснікаў у горадзе было вельмі мала, гандаль фактычна абмяжоўваўся штотыднёвымі таргамі і двума дзесяткамі корчмаў. У час Паўн. вайны 1700—21 Л. тройчы руйнавалася шведскімі войскамі (1702, 1706, 1708). У 1756 у горад перанесены з Воранава піярскі калегіум (гл. *Лідскі піярскі калегіум*). У 1750—70-х г. на новым месцы пабудаваны фарны касцёл (раней быў на падзамчы). Планіровачная структура Л., паказаная на планах канца 18—пач. 19 ст. (1 асн. вуліца, 3 або 4 меншых, трапецападобная плошча перад замкам, няправільная паўавальная рыначная плошча, хаатычнасць забудовы ў цэлым), сведчыць аб стыхійным характары яе развіцця, падпарадкаваным толькі 2 зыходным элементам гіст. тапаграфіі горада — замку і дарозе, што вяла ў паўн. напрамку, пазней пераўтворанай у асн. вуліцу. Аналіз планаў Л. ў кантэксце гіст.-геаграфічнай сітуацыі рэгіёна дазваляе зрабіць выснову, што замак як элемент планіроўкі ў дачыненні да дарогі насіць першасны характар, што сустракаецца досыць рэдка. У 1792 у Л. 1243 жыхары, 242 дамы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Лида: Ист.-экон. очерк. Мн., 1976; Краўцэвіч А., Трусаў А. Археалагічнае вывучэнне Лідскага замка і г. Ліды // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1992; Наш радавод. Кн. 6. Ліда, 1994; Памяць: Ліда. Лідскі раён: Гіст.-дакумент. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Мн., 2004.

***Расціслаў Баравы.***

**Лідскі замак.** Пабудаваны ў 1330-я г. ў *Лідзе* з бутавага каменю і цэглы. Уваходзіў у лінію супрацькрыжацкай абароны Навагародак—Крэва—Меднікі—Трокі. За аснову замка ўзяты тып абарончага збудавання кастэль. Замак пастаўлены на насыпным пясчаным узгорку (вышыня 5—6 м), быў абкружаны балоцістымі берагамі рэк Лідзея і Каменка, з Пн — ровам шырынёй каля 20 м, які злучаў гэтыя рэчкі і аддзяляў замак ад горада. Пазней (відаць, у 16—



**Лідскі замак.** Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

17 ст.) у сістэму перадзамкавых умацаванняў з У уключана штучнае возера. Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік (93,5 х 83,5 х 80 х 84 м) з 2 вуглавымі вежамі. Асн. абарончае значэнне мелі пастаўленыя на невысокім падмурку сцены вышынёй 12 м, таўшчынёй унізе 2 м, уверсе 1,5 м. Уверсе яны пераходзілі ў баявую галерэю, мураваная сценка якой не выступала за паверхню замкавага муру і мела адзін рад байніц, што размяшчаліся на адлегласці 2,4 м адна ад адной. Памост галерэі апіраўся на драўляныя бэлькі. Ад паўд.-зах. вежы (пабудавана ў 1-й пал. 14 ст.) захаваліся толькі падмуркі, зробленыя без перавязкі з замкавымі сценамі, але на адным узроўні з падмуркамі апошніх. Гэта сведчыць пра адначасовасць пабудовы замка і вежы, якая ў плане была квадратная (11,3 х 11,3 м). Яе падмуркі (шырыня каля 3 м, глыбіня да 70 см) складзены з вял. і сярэдніх камянёў. Паўн.-ўсх. вежа (пабудавана ў канцы 14—пач. 15 ст.) мела выгляд перакошанага markознабаковага чатырохвугольніка (12 х 12,5 х 12,3 х 12,15 м) і была прыбудавана да замкавых муроў без перавязкі. Падмуркі вежы закладзены на 70—80 см глыбей за замкавыя сцены, што сведчыць пра розны час іх будаўніцтва. Вежа мела арачны ўваход з боку двара і ўсходы ў тоўшчы зах. сцяны шырынёй 1 м з драўлянымі прыступкамі. У паўн., усх. і паўд. сценах захаваліся пячныя нішы, якія служылі для ацяплення верхніх паверхаў. Першы паверх быў перакрыты крыжовым скляпеннем. Абедзве вежы мелі шатровыя дахі і не выступалі за перыметр сцен. У Л.з. вялі 3 уваходы, 2 з якіх размяшчаліся ва ўсх. сцяне. Меншая брама шырынёй 2,5 м і вышынёй 3 м завяршалася стральчатай аркай і служыла для штодзённага карыстання; большая брама шырынёй каля 4,5 м і вышынёй да 6 м выконвала ролю параднай. Над яе паўцыркульнай аркай размяшчаўся ляпны картуш з выявай дзярж. герба ВКЛ — «Пагоні». Паўд. сцяна замка прарэзана на вышыні каля 2 м ад зямлі скразным праёмам з паўцыркульнай аркай — запасным ходам для раптоўных вылазак гарнізона або скрытага выхаду ў крытычныя моманты абароны. Замкавыя і вежавыя муры складзены ў асн. з палявых камянёў, вонкавыя паверхні зроблены з вялікіх, часам абчасаных валуноў. Прамежкі паміж валунамі запоўнены каменнымі асколкамі на вапнавым растворы. Забутоўка паміж «шчокамі» сцен рабілася з дробных камянёў. Цэглу выкарыстоўвалі толькі для асн. элементаў канструкцыі і архітэктурных дэталей. З яе зроблены куты замкавых і вежавых муроў, дэкаратыўныя паясы на фасадах сцен, аркі, скляпенні, сценкі байніц. Вапнавы раствор, на якім пакладзена цэгла, меў дамешкі са жвіру і дробных каменьчыкаў, таўшчыня швоў 2—3 см. На замкавым двары размяшчаліся правасл. царква (у 1533 перанесена ў горад), жылыя і гасп. пабудовы, у т.л. дом каменданта замка, казармы, склады, калодзежы, з 1568 — суд, архіў, астрог. Жылыя памяшканні былі на верхніх паверхах вежаў. Археалагічныя даследаванні Л.з. праводзілі М.А.Ткачоў (1970), А.А.Трусаў (1977—78, 1980, 1985), А.К.Краўцэвіч (1986—87). У 1920-я г. зроблена частковая, у 1982 — поўная кансервацыя Л.з. Вядуцца работы па рэстаўрацыі сцен і вежаў замка.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Трусаў А.А.Старадаўніх муроў адраджэнне: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн., 1990; Краўцэвіч А., Трусаў А. Археалагічнае вывучэнне Лідскага замка і г. Ліды // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1992.

***Міхась Ткачоў, Алег Трусаў.***




**Лідскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. Цэнтр — г. *Ліда*. Папярэднікам Л.п. было Лідскае намесніцтва, вядомае з 1382, калі ім кіраваў фаварыт вял. кн. Ягайлы Вайдзіла. З 1413 уваходзіла ў *Віленскае ваяводства*, часам выступала пад назвай «павет». Ахоплівала дзярж. сёлы, што належалі непасрэдна да Лідскага замка, і ўладанні мясц. баяр-шляхты, якія выходзілі на вайну ў складзе Лідскай харугвы. У попісе войска ВКЛ 1528 фігуруюць каля 80 такіх дробных землеўладальнікаў, з якіх 37 ішлі ў войска асабіста, а астатнія выстаўлялі разам 49 коннікаў. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 да Лідскага намесніцтва далучаны суседнія Астрынскае, Васілішскае, Радунскае і Эйшышкскае намесніцтвы, якія раней адносіліся да *Троцкага ваяводства*, а таксама буйныя панскія вотчыны: Беліца, Дакудава, Жалудок, Жыжма, Жырмуны, Ішчолна, Сялец, Шчучын і інш. Іх агульная тэрыторыя ўтварыла Л.п. з фіксаванымі ме-



жамі і штатам павятовыхураднікаў. Л.п. ўвайшоў у Віленскае ваяв., меў павятовую харугву чырвонага колеру з выявай «Пагоні». Але межы павета былі не вельмі ўстойлівымі: шэраг маёнткаў абапал Нёмана (Ятвезск, Ражанка, Турэйск, Дзеражное, Макрэц, Ліпічна з вял. пушчай у Занямонні) у розных крыніцах адносяцца то да Л.п., то да суседняга *Гарадзенскага павета*. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 з прыватных маёнткаў Л.п. выстаўляліся прыблізна 980 коннікаў, з іх каля 200 выстаўлялі паны (не лічачы ўладанняў М.Ю.Радзівіла, склад маёнткаў якіх у попісе не прыводзіцца), астатніх — павятовая шляхта (частка яе валодала маёнткамі і за межамі Л.п.). Плошча павета складала каля 5,5 тыс. км². У 1650 у Л.п. налічвалася 11,8 тыс. дымоў, што адпавядае колькасці насельніцтва каля 80 тыс. чал. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* засталося 9,6 тыс. дымоў, 60—65 тыс. чал. У канцы 18 ст. ў Л.п. налічвалася больш як 1200 паселішчаў, колькасць насельніцтва дасягала 100 тыс. чал. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Лідскі піярскі калегіум**. Існаваў у 1756—1834 у г. *Ліда*. Піяры з'явіліся ў Лідскім пав. ў 1-й трэці 18 ст., калегіум быў спачатку ўтвораны ў 1735 у мяст. Воранава на сродкі смаленскага кашталяна Я.Сцыпіёна і яго сына Юзафа (50 тыс. злотых і фальварак Лапацызна з в. Вільканцы). У 1756 па прапанове лідскага старасты І.Сцыпіёна пераведзены ў Ліду. Мясцовая шляхта ахвяравала піярам фальварак Пастаўшчызна і юрыдыку ў Лідзе. З 1783 калегіум знаходзіўся ў Гарадзенскай навучальнай акрузе, з 1790 — у Піярскай навучальнай акрузе, падпарадкаванай Адукацыйнай камісіі. У 1783 тут вучылася ў 3 класах 90 чал., у 1787 — 62, у 1790 — 50. У апошняй чвэрці 18 ст. фінансавае становішча калегіума пагоршылася, што выклікала скарачэнне колькасці вучняў. Пры калегіуме былі 2 канвікты (пансіёны) для дзяцей збяднелай шляхты. Пасля ўключэння Лідскага пав. ў Рас. імперыю (1795) падначалены ведамству літоўскага ген.-губернатара. З 1803 у складзе Віленскай навучальнай акругі як 4-класнае павятовае вучылішча з 5 выкладчыкамі. У 1834 канфіскавана ў піяраў і рэарганізавана ў 5-класнае дваранскае павятовае вучылішча.



Герб **«Ліс»**.

***Андрэй Самусік.***

**Ліздзейка**, легендарны язычніцкі жрэц вял. князя *Гедзіміна*. Паводле легенды пра заснаванне Вільні, зафіксаванай у бел.-літ. летапісах, вял. князь Віцень пры паляванні знайшоў у арлінfamous гняздзе (літ. lizdas гняздо, адсюль імя Л.) немаўля. Паводле інш. варыянта падання, хлопчык быў знойдзены ў карзіне ў зарасніках. Ён атрымаў імя Л., быў выхаваны пры велікакняжацкім двары і стаў вярхоўным жрацом пры сыне Віценя Гедзіміне. Калі ў час палявання Гедзімін заснуў на Туравай гары над р. Вільня, то сасніў жалезнага воўка, што стаяў на Крывой гары і выў як сто ваўкоў. Л. так патлумачыў сон Гедзіміна: «Волкъ железный знаменует город столечный тут будет, а што в нем оунутри ревет, то слава его будет слынути на вес свѣт»; пасля гэтага Гедзімін заклаў Вільню. Паводле аднаго з паданняў, Л. быў родапачынальнікам Радзівілаў.

*Літ.*: Топоров В.Н. *Vilnius, Wilno, Вильна*: город и миф // Балто-славянские этноязыковые контакты. М., 1980.

***Валерый Пазднякоў.***

**Лікоўскі** (Likowski) Эдвард (26.9.1836, г. Вжэсьня—20.2.1915), дзеяч каталіцкай царквы, гісторык. Д-р тэалогіі (1866). Чл. АН у Кракаве (1887). Вывучаў тэалогію і філасофію ў Мюнхенскай акадэміі. У 1865—73 выкладаў яўрэйскую мову, гісторыю царквы і кананічнага права ў Пазнанскай духоўнай семінарыі (у 1867—73 яе рэктар). Біскуп-суфраган пазнанскі з 1887, арцыбіскуп мітрапаліт гнезненскі і пазнанскі з 1914. У 1895—1914 старшыня Пазнанскага таварыства аматараў навук. Працы па гісторыі Берасцейскай уніі 1596, уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай, Рэфармацыі.

*Тв.*: Historia tzw. reformacji w Polsce od pierwszego jej wystąpienia aż do Colloquium Charitativum w 1643. Poznań, 1867; Historia unii Kościoła ruskiego z Kościołem rzymskim. Poznań, 1875; Materiały do dziejów upadku unii w diecezji chełmskiej. T. 1—2. Poznań, 1878; Dzieje Kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku uważane głównie ze względu na przyczyny jego upadku. Poznań, 1880 (2 wyd. Cz. 1—2. Warszawa, 1906); Rokowania poprzedzające unię brzeską. Kraków, 1886; Unia Brzeska (r. 1596). Poznań, 1896 (2 wyd. Warszawa, 1907).

**лінія**, адзінка даўжыні. У англійскай сістэме мер раўнялася 10 кропкам або 2,54 мм. У Рэчы Паспалітай Л. — адзінка дзялення локцяў. У ВКЛ паводле рэформы 1764—66 локаць прыраўняны да 2 французскіх стоп, роўных 288 Л., або 649,7 мм, адсюль Л. раўнялася 2,25 мм.

***Яўген Анішчанка.***

**ліпкі**, назва татараў ВКЛ, якія ў 17 ст. перасяліліся ў турэцкія ўладанні. Слова «Л.» паходзіць, мабыць, ад турэцкага выразу «лубка-татар», што значыць «літоўскія татары». Многія з іх перад гэтым служылі ў татарскіх харугвах кароннага войска і ў 1672 удзельнічалі ў бунце на чале з ротмістрам А.Крычынскім (гл. ў арт. *Крычынскія*). У 1676 сойм аб'явіў амністыю Л., пасля чаго многія з іх вярнуліся на службу Рэчы Паспалітай і атрымалі ад Яна III Сабескага землі ў каралеўскіх эканоміях. У некаторых навук.-папулярных працах памылкова называюць Л. ўсіх татараў ВКЛ.

*Літ.*: Kryczynski S. Bej barski // Rocznik Tatarski. Zamość, 1935. T. 2.

***Станіслаў Думін.***

**«Ліс»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 200 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Ваньковічы, Наркевічы-Ёдкі, Парчэўскія, Сапегі, Свірскія. У чырвоным полі сярэбраная двойчы перакрыжаваная страла; клейнод — над прылбіцай з каронай верхняя палова чырвонага ліса. Існуюць варыянты герба: з адзін

раз перакрыжаванай стралой, клейнод — 3 страусавыя пёры; з тройчы перакрыжаванай стралой, пры гэтым бэлькі штораз павялічваюцца да нізу, клейнод — 3 страусавыя пёры; з выявай сярэбранай падковы, на якой стаіць двойчы перакрыжаваная страла, клейнод — сярэбраны лебедзь. Вядомы з пач. 13 ст., у ВКЛ — пасля Гарадзельскай уніі 1413.

**Лісоўскі** Аляксандр Юзаф (каля 1575—1616), военачальнік, стваральнік *лісоўчыкаў*. Вайсковую службу пачаў пад камандаваннем Я.Патоцкага, удзельнічаў у кампаніі 1599—1600 супраць валашскага гаспадара Міхала, у *Кірхгольмскай бітве 1605* са шведамі. У 1607 далучыўся да войска Лжэдзмітрыя II. На чале данскіх казакоў рабіў рэйды па тэр. Расіі, захапіў Разань, Суздаль, Каломну і інш. Пад камандаваннем Я.П.Сапегі ўдзельнічаў у аблозе Масквы і Троіца-Сергіевай лаўры. Пасля паражэння Лжэдзмітрыя II на службе ў Жыгімонта III, удзельнічаў у зняцці аблогі рас. войск са Смаленска ў 1614—15, у 1615 арганізаваў паход у Северскую зямлю. За ўдалыя вайсковыя аперацыі атрымаў чын каралеўскага палкоўніка.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Лісоўскі** Іраклій [свецкае імя Іосіф; 1734, Полацкае ваяводства—30.8(11.9).1809], дзеяч уніяцкай царквы. З бел. шляхецкага роду герба «Вожык». Вучыўся ў школе пры кляштары дамініканцаў ва Ушачах, там уступіў у ордэн базыльян. Ігумен Полацкага манастыра пры Сафійскім саборы. З 1778 архімандрыт Ануфрыеўскага манастыра (Мсціслаўскае ваяв.). З 1780 чл. кансісторыі Полацкай уніяцкай епархіі. У 1784—1809 полацкі архіепіскап. З 1795 пасля скасавання Кацярынай II уніяцкіх епархій (акрамя Полацкай) фактычны кіраўнік усіх грэка-католікаў Рас. імперыі. У 1806—09 мітрапаліт кіеўскі (не зацверджаны папам рымскім). У царк. жыцці ў процівагу базыльянам абапіраўся на белае духавенства, вылучаў яго на кіруючыя пасады. У 1785 падпарадкаваў сваёй уладзе базыльянскія манастыры Полацкай епархіі, у 1798 забараніў агульныя капітулы (з'езды) ордэна. У 1805 спрыяў выданню загаду Пецярбургскай рымска-каталіцкай калегіі пра скасаванне 54




Іраклій **Лісоўскі**.

базыльянскіх манастыроў. Садзейнічаў стварэнню Гал. семінарыі пры Віленскім ун-це (1803), адкрыў семінарыю для белага духавенства ў Полацку (1806). Быў прыхільнікам ачышчэння абраднасці ад лацінскіх запазычанняў. Склаў і паслаў у Рым на зацвярджэнне службоўнік з паралельнымі царк.-слав. і лацінскім тэкстам. Дамогся ад імператара Аляксандра I стварэння ўнутры рымска-каталіцкай калегіі асобнага дэпартамента для уніятаў (1805), старшынёй якога стаў сам. Садзейнічаў выданню царскага дазволу для уніятаў, якія прынялі лацінскі абрад, вярнуцца да папярэдняга веравызнання. Ва ўнутрыцарк. барацьбе абапіраўся на падтрымку царызму. У 1795 забараніў уніяцкім святарам процідзейнічаць схіленню (часам гвалтоўнаму) сваіх вернікаў у праваслаўе.

*Літ.*: Коялович М. История воссоединения западнорусских униатов. СПб., 1873; Акты Виленской археографической комиссии. Т. 16. Вильна, 1889; Бобровский П.О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890; Likowski E. Dzieje Kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Cz. 1. 2 wyd. Warszawa, 1906; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907; Historia Kościoła w Polsce. T. 2, cz. 1. Poznań, 1979.

***Сяргей Казуля.***

**лісоўчыкі**, лёгкая нерэгулярная кавалерыя ў Рэчы Паспалітай у 1-й пал. 17 ст. Арганізавана А.Ю.*Лісоўскім*. Былі ўзброены шаблямі, рагацінамі, лукамі або ручніцамі, вылучаліся надзвычайнай рухомасцю і баяздольнасцю, але разам з тым жорсткасцю і рабаўніцтвамі. У 1608—11 ваявалі на баку Лжэдзмітрыя II, у 1611—19 на службе ў Жыгімонта III. З 1619 у войску імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда III, удзельнічалі ў падаўленні чэшскага паўстання (1620), у войнах з Асманскай імперыяй (пад Хацінам у 1621), у Трыццацігадовай вайне (1618—48). Пасля 1636 атрады Л. расфарміраваны.

*Літ.*: Wisner H. Lisowczycy. Warszawa, 1995.

**ліст**, 1) агульная назва ў ВКЛ заканадаўчых актаў, кодэксаў права, распарадчых і судовых дакументаў, прыватна-прававых актаў, пасланняў і інш. Тэрмін «Л.» з'явіўся на Беларусі ў 14 ст. і на працягу 15 ст. выцесніў з ужытку тэрмін «грамата». Уваходзіў састаўной часткай у назвы некаторых разнавіднасцей дакументаў. Л. бязмытны выдаваўся гаспадаром (вял. князем) і вызваляў пэўную асобу ад платы мытных пошлін на пэўны тэрмін. Л. военны — прадпісанне ўсёй ваеннаабавязанай шляхце на мабілізацыю (паспалітае рушэнне) і выступленне на месца ўсеагульнага ваеннага збору, у ім нагадваліся ваенныя абавязкі і адказнасць за невыкананне загаду. Выдаваўся гаспадаром, Радай ВКЛ, гетманам вялікім. Іх рассыламі ў паветы; буйныя феадалы атрымлівалі асабістыя Л. Да ведама сярэдняй і дробнай шляхты Л. даводзілі мясцовыя ўраднікі (ваяводы, старасты, дзяржаўцы, цівуны, харужыя) шляхам перапісвання з іх копій і абвяшчэння «в торгох и при костелах у парафеях». Разнавіднасць Л. военных — «листы о отложенье попису», што азначала адтэрміноўку ваеннага збору. Л. вываланы выдаваўся з гаспадарскай канцылярыі. Ім пэўная асоба пазбаўлялася грамадзянскіх правоў і падлягала выгнанню з краіны (гл. *Баніцыя*). Л. вызвалены выдаваўся гаспадаром або панам свайму слузе (падданаму), калі той звальняўся са службы або адпускаўся на волю. Л. вяноўны афармляў *вена* — запіс мужам на імя жонкі часткі нерухомай маёмасці. Л. глейтоўны адтэрміноўваў выкананне судовага прыгавору да



разгляду справы ў гаспадарскім судзе і забяспечваў захаванне да таго часу ўсіх грамадзянскіх правоў асобе, якая была іх пазбаўлена паводле рашэння суда ніжэйшай інстанцыі. Даваўся таксама асобам, якія абвінавачваліся ў дзярж. здрадзе, каб яны мелі магчымасць даказаць перад гаспадаром сваю невінаватасць. Ён выдаваўся гаспадаром тэрмінам не больш як на год і 6 тыдняў на імя ваявод і старастаў, але павінен быў даводзіцца да ведама ўсёй шляхты такім жа чынам, як Л. ваенны. Меў таксама назву «лист поднесенный на выволанье», звычайна называўся проста «глейт». Л. дазволены (Л. прызволены) даваў права прыватным асобам на здзелкі з нерухомай маёмасцю. Выдаваўся гаспадаром або ваяводам (старастам). Пасля таго як Берасцейскі сойм 1566 прыняў закон аб вольным валоданні маёнткамі, неабходнасць у такім Л. адпала. У некаторых выпадках ён меў значэнне дазволу на замену адной асобы іншай пры выкананні некаторых абавязкаў, работ, павіннасцей і інш. У Л. да падданых гаспадар інфармаваў насельніцтва маёнтка, воласці або дзяржавы пра перадачу ў трыманне або ўласнасць пэўнай асобе і абавязваў яго быць паслухмяным новаму дзяржаўцу або ўласніку. Выдаваўся таксама пры зборы сярэбшчыны і ў інш. выпадках. Лістом данінай афармлялася падараванне маёнткаў або зямель. Л. дароўны — прыватнаправавы акт, якім афармлялася падараванне рухомай і нерухомай маёмасці. Л. дзелчым афармляўся падзел маёмасці, звычайна пры падзеле спадчыны сваякамі. Л. жалезны ўстанаўліваў адтэрміноўку выплаты даўгоў або прыцягнення да судовай адказнасці за даўгі. Выдаваўся гаспадаром на тэрмін да 3 гадоў асобам, якія пацярпелі ад вайны або стыхійнага бедства. Л. заручны гарантаваў ахову жыцця, здароўя і маёмасці адной асобы ад пасягненняў другой. Выдаваўся гаспадаром або мясцовымі ўладамі (ваяводам) пад страхам вял. штрафу або смяротнага пакарання. Л. заставўны складаўся пры перадачы ў *заставу* (заклад) дзярж. ці прыватных маёнткаў. Л. камісійны даваўся гаспадаром спецыяльна прызначаным асобам (камісарам), якія пасылаліся ў паветы для разбору спрэчак аб межах і прыналежнасці зямельных уладанняў; змяшчалі гаспадарскую інструкцыю, як разбіраць справу і чым кіравацца пры гэтым. Л. камісарскі фіксаваў рашэнне, прынятае камісарамі. Л. мяноўным афармляўся абмен маёнткамі або землямі паміж прыватнымі асобамі. Л. на вольнасць вызваляў на пэўны тэрмін воласць або населены пункт ад выплаты падаткаў. Выдаваўся звычайна ў выпадках цяжкіх наступстваў стыхійных бедстваў, ваенных дзеянняў і інш. Л. на юргельт — дакумент на атрыманне службовай асобай штогадовага жалавання з дзярж. скарбу. Выдаваўся гаспадаром зацікаўленай асобе, адрасаваўся падскарбію земскаму і прымаўся ім як апраўдальны дакумент пры выплаце грошай. Л. напамінальны (Л. прыпамінальны) — распараджэнне гаспадара або гродскага суда мясцоваму ўрадніку або прыватнаму ўласніку пакараць самастойна сваіх слуг або падданых, якія былі прызнаны вінаватымі паводле рашэння суда. Л. паручны — паручыцельства за пэўную асобу, напр., у вяртанні крэдыту. Адказнасць перад крэдыторам па Л. паручным нёс паручыцель. Л. падводны выдаваўся гаспадарскаму ганцу, каб мясцовыя ўраднікі давалі яму падводы. Выдаваўся гаспадаром, Радай ВКЛ, на ўскраінных землях — ваяводамі, старастамі, дзяржаўцамі. Л. пасельскі веручы пацвярджаў асобу гаспадарскага пасла, які выпраўляўся на павятовы соймік. Л. прадажны (Л. купчы) — прыватнаправавы акт, якім афармляўся продаж маёнтка. Л. прыпаведны — распараджэнне-напамін пэўнай службовай асобе (старасту, ротмістру і інш.) аб выкананні ўскладзеных на яе ваенных абавязкаў (набор і ўзбраенне наёмнага атрада, выступленне ў пэўны пункт, умацаванне замка і інш.). Л. соймавым гаспадар або Рада ВКЛ прызначалі дату і месца правядзення вальнага сойма, павятовых соймікаў, а таксама інфармавалася шляхта паветаў аб прынятых на сойме рашэннях. Іх даводзілі да ведама такім жа чынам, як і Л. ваенныя. Л. серабшчызны — паведамленне аб памерах і тэрмінах збору сярэбшчыны. Рассылаліся старастам, дзяржаўцам, цівунам і інш. службовым асобам. Л. увяжчы складаўся пры ўвядзенні пэўнай асобы ў валоданне маёнткам паводле рашэння суда або гаспадарскага падаравання і юрыдычна фіксаваў акт перадачы маёнтка ва ўласнасць ці трыманне. Складаўся спецыяльна пасланым для гэтага гаспадарскім дваранінам або мясцовымі ўраднікамі. У некаторых выпадках так называўся судовы вырак, паводле якога адзін з бакоў атрымліваў маёнтак, які да гэтага трымаў процілеглы бок. У Л. яднальным фіксавалася адмова бакоў, што спрачаліся, ад узаемных прэтэнзій ці абавязацельства аднаго з бакоў задаволіць прэтэнзіі другога.

Тэрмін «Л.» уваходзіў у словазлучэнні, што абазначалі групы аднародных дакументаў: Л. вызнаны — дакумент, у якім адна асоба нешта прызнавала на карысць другой, звычайна пры прыватных здзелках з маёмасцю, грашыма і інш. Л. вызнанымі называлі распіскі аб атрыманні чаго-небудзь ва ўласнасць, карыстанне або заклад (такія Л. часта мелі назву «квіт» або «рэверсал»), прыватнаправавыя акты (Л. дароўны, мяноўны, прадажны і інш.), добраахвотныя абавязацельствы кампенсаваць страты (Л. яднальны), паручыцельства за каго-небудзь (Л. паручны) і інш. Звычайна Л. вызнаныя давалі адзін аднаму абодва бакі. Л. запіснымі называлі ўсе дакументы прыватнаправавога характару (дарчыя, дзелчыя, прадажныя і інш.). Л. «ку отволоченью права» — дакумент, які адкладваў тэрмін разгляду справы ў судзе або выкананне судовага прыгавору (у т.л. Л. жалезныя і глейтоўныя). Л. судовым афармлялася прамежкавае або канчатковае рашэнне суда. У апошнім выпадку часцей называўся вырак, дэкрэт.

2) Форма паслання пэўнай асобе ці калектыву. Носіць пабытавы, справавы або літаратурны характар. Кампазіцыя Л. мае 3 абавязковыя часткі: пратакол у пачатку (прывітанне ці звяртанне, звычайна з імем атрымальніка, часам з імем адпраўшчыка), тэкст паведамлення і эсхатакол у канцы (развітанне). Л. часта не падпісваўся і не датаваўся, датаванне набліжала яго да дакумента, але адрозненне Л. ад дакумента ў сярэдневяковы невыразнае, многія дакументы (прашэнні, справаздачы, загады і інш.) маглі мецъ форму Л. Пабытавыя ці аказіянальныя Л. пісаліся самаруч,



але часцей тэкст Л. ўзнікаў у выніку дыктоўкі (часта толькі сэнсу ці асн. палажэнняў) сакратару або пісцу, якія ўжо надавалі Л. літаратурную форму. Многія Л. пісаліся ў разліку на масавае чытанне (напрыклад, допісы Ф.С.Кміты-Чарнабыльскага). Л. быў літаратурным жанрам і мог складацца паводле правіл рыторыкі. Форма Л. надавалася многім творам («Ліст да Абуховіча», «Ліст да святога Пятра» і інш.), у т. л. палемічным і навуковым. Найб. дасканалыя ў літаратурных адносінах Л. (напрыклад, Сімяона Полацкага) распаўсюджваліся і зберагаліся ў зборніках. Існавалі лістоўнікі, дзе падаваліся ўзоры і прыклады справавых і літаратурных Л.

*Літ.*: Winniczuk L. Epistolografia. Warszawa, 1952; Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960; Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской Метрики. Вильнюс, 1985; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989; Клімаў І.П. Тэорыя заходнееўрапейскага ліста ў часы Сярэднявечча і Рэнесансу // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2003. Вып. 4.

***Ігар Клімаў* (2), *Андрэй Рыбакоў* (1).**

**«Ліст да Абуховіча»,** помнік беларускай літаратуры 17 ст. Напісаны ў 1655 і адрасаваны смаленскаму ваяводу П.К.*Абуховічу*, які ў 1654 здаў горад рас. войскам у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Ва ўсіх вядомых спісах адпраўшчыкам «Ліста» названы Цыпрыян Камуняка, аднак дакладна не ўстаноўлена, сапраўднае гэта імя ці псеўданім. Твор глыбокапатрыятычны. У пасланні, поўным злой іроніі, Камуняка развенчвае бяздарнасць ваяводы ў ваен. справе, асуджае яго як здрадніка. У асобе Абуховіча аўтар выкрывае буйную шляхту таго часу, высмейвае яе норавы і паводзіны, з'едліва крытыкуе яе сквапнасць, прадажнасць, бездапаможнасць у справе абароны Радзімы. Помнік напісаны жывой бел. мовай, месцамі рыфмаванай, пазбаўленай паланізмаў, перасыпанай вострымі словамі і дасціпнымі параўнаннямі, каларытнымі прыказкамі і прымаўкамі. Упершыню апублікаваны ў 1910. Разам з *«Прамовай Мялешкі»* — этапная з'ява ў гісторыі бел. л-ры на шляху яе дэмакратызацыі.

*Літ.*: Даўгяла Дз.І. З беларускага пісьменства XVII ст.: Творы Цыпрыяна Камунякі «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі». Мн., 1927; Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1985. С. 200—203.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Ліст да святога Пятра»,** «Грамата, пісаная да святога Пятра», беларускі ананімны празаічны твор 2-й пал. 17 ст. Захаваўся ва ўрыўках. Узнік, відаць, у правасл. асяроддзі. З'яўляецца пародыяй на жанр афіц. паслання. Крытычны пафас скіраваны супраць «акаяннай» каталіцкай веры і яе носьбіта Ярмолы Аханцэвіча Цюхая, вобраз якога зніжаны, дээстэтызаваны. Аўтар просіць апостала Пятра прапусціць у рай чалавека цёмнага і прымітыўнага, які па сутнасці не мае на гэта права. У творы ярка выражаны стылявыя рысы барока. Упершыню апублікаваны чэшскім славістам Ф.Крчэкам у польскім час. «Lud» («Народ», 1899, т. 5). Да 2-й сусв. вайны зберагаўся у Б-цы імя Асалінскіх (Львоў).

***Адам Мальдзіс.***

**Літва**, этнічны і палітычны тэрмін, які ўжываўся ў гістарычных крыніцах у розных сэнсах. Упершыню зафіксаваны пад 1009 у «Кведлінбургскіх аналах» (Annales Quedlinburgenses) у сувязі са смерцю каталіцкага прапаведніка св. Бруна на памежжы *Русі* і Л. (Lituae). Можна меркаваць, што зыходнай формай назвы была Літава (Litova) з націскам на апошнім складзе, а ў вытворных ад яго прыметніках націск змяшчаўся на 2-і склад, адсюль старажытнарус. «литовскый», лац. litoviensis і да т.п. Варыянт назвы Літовія (Lithovia, Lettowia ў лацінска- і нямецкамоўных крыніцах) утварыўся, хутчэй за ўсё, у выніку другаснай трансфармацыі прыметніка ў назоўнік пісарамі, для якіх літ. мова не была роднай. Відавочна, зыходная форма Літава ўтварылася па тых жа прынцыпах, што і зах.-балцкія Надрава (Надровія), Карсава (Карсовія), Судава, Дайнава. Падобная форма зафіксавана і ва ўсх.-літоўскім арэале — Дзевалтва. Паходжанне тэрміна «Л.» не высветлена, ніводная са шматлікіх версій не атрымала агульнага прызнання. Корань «літ-» (з варыянтамі «лет-/лют-») дапускае розныя этымалогіі як у балцкіх і славянскіх, так і ў інш. індаеўрапейскіх мовах. Сугучныя тапонімы вядомы з 12—13 ст. на тэр. Славакіі (Lytwa), Румыніі (Litua). Адна з версій звязвае тэрмін «Л.» з назвай р. Латава, прытока Швянтойі (у Анікшчайскім р-не Літоўскай Рэспублікі). Фармулёўка граматы *Міндоўга*, выдадзенай адразу пасля яго каранацыі ў 1253 («дадзена ў Летовіі ў нашым двары»), дазваляе некаторым аўтарам меркаваць, што існавала аднайменнае паселішча, у якім нібыта размяшчалася адна з яго рэзідэнцый, пазней — двор літ. біскупа. Яго звязваюць з гарадзішчам на той жа р. Латава, дзе ў канцы 14 ст. ўпаміналіся рэшткі замка Летаў (Lettow), ці з в. Літоўка каля Навагарodка. Але гэтыя меркаванні не маюць трывалай факталагічнай падставы.

Л. двойчы ўпамінаецца ва ўводнай частцы «Аповесці мінулых гадоў»: сярод еўрапейскіх народаў «Афетавай часткі» і сярод «иних языцев», якія даюць даніну Русі. Апошняя згадка сведчыць пра неславянскую моўную прыналежнасць Л. Больш познія паведамленні дазваляюць вызначыць гэтую прыналежнасць як балцкую. Тое, што мова Л. была амаль тоесная жамойцкай («адна і тая ж мова і адны і тыя ж людзі»), сцвярджаецца ў лісце Вітаўта да імператара Жыгімонта (1420). У 2-й пал. 15 ст. Я.*Длугаш* пісаў, што «літоўцы, самагіты (жамойты) і яцьвінгі (яцвягі), хаця і мелі розныя найменні і падзяляліся на мноства родаў, утваралі тым не менш агульнае цэлае». Ён адзначаў аднолькавыя рысы ў мове літоўцаў і жамойтаў, якія прыпісваў іх лацінскаму паходжанню. Гэтая думка разгорнута ў трактаце *Міхалона Літвіна* (1550), дзе прыведзены 74 словы, якія, на думку аўтара, гучаць у літ. (Lituano) мове гэтак жа, як і ў лацінскай. Усе яны маюць індаеўрапейскае паходжанне, прытым ёсць такія, што захавалі сугучнасць у лацінскіх і балцкіх мовах, але адрозніваюцца ад адпаведных слав. слоў: deus (бог, літ. dievas), vir (чалавек, vyras), gentes (людзі, gentys), dentes (зубы, dantys), rota (кола, ratas), cur (чаму, kur), primus (першы, pirmas) і інш. Папскі нунцый Дж.Руджэра, паведамляючы ў 1568 пра адметнасць літ. мовы (lingua lituana) ад польскай і нямецкай, адзначыў, што «на Жамойці ўжываецца ў гутарцы тая самая мова, аднак даволі адрозная ад літоўскай, якая ў іншы спосаб адрозніваецца і ад-

начасна супольная для некаторых вёсак Прусії».

У ваенна-паліт. падзеях Л. прыгадваецца ў сувязі з паходам на яе кіеўскага кн. Яраслава Мудрага, які ў «Аповесці мінулых часоў» датаваны 1040, у Наўгародскім 1-м летапісе — 1044. Магчыма, менавіта ў той час Л. трапіла ў данніцкую залежнасць ад Русі, якую прыгадвае і Длугаш. Наступны паход на Л. здзейсніў у 1130/31 кіеўскі кн. Мсціслаў Уладзіміравіч. Пад 1159 (1162) Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што прадстаўнік менскай княжацкай галіны Валадар «ходяше под Литвою в лесех». Гэтую згадку даследчыкі інтэрпрэтуюць па-рознаму: Валадар альбо нёс ахову на мяжы з Л., альбо хаваўся там, каб ухіліцца ад прысягі полацкаму кн. Рагвалоду; некаторыя літ. даследчыкі трактуюць выраз «под Литвою» як сведчанне паліт. залежнасці Валадара ад Л. Колькасць згадак пра Л. рэзка павялічваецца з 1180-х г. Войска з Л. ходзіць па запрашэнні полацкіх князёў на іх праціўнікаў (у 1180 на Друцк і ў 1196 на Вял. Лукі), здзяйсняе самастойныя рабаўніцкія напады. Першы такі набег (на Пскоўскае княства) адбыўся ў 1183. У «Слове аб паходзе Ігаравым» прыгадваецца пра гібель у бітве з літоўцамі каля 1185 кн. Ізяслава (з полацкага роду Усяславічаў). У «Хроніцы Лівоніі» сцвярджаецца, што літ. (Lethones) набегі на Лівонію пачаліся да прыбыцця туды біскупа Мейнарда (да 1184) і працягваліся няспынна на працягу наступных 40 гадоў. Пра крыўды хрысціянам ад «вельмі магутнай Л.» згадвалася ў час візіту ў Рым ахрышчанай знаці ліваў (1188). Кіеўскі кн. Рурык у 1190 і 1193 збіраўся ў паход на Л., але гэты намер так і не быў здзейснены. У 1200 Л. зрабіла набег на паўд. воласці Наўгародскай зямлі, прыблізна ў гэты ж час адбыўся першы набег на Польшчу. У 1201 літоўцы заключылі мір з рыжскім біскупам і здзейснілі набег на Земгалію, тады ж «Хроніка Лівоніі» паведамляе пра паход полацкага кн. Уладзіміра на Л. Каля 1203 пачалося супрацоўніцтва з Л. Усевалада, князя г. Герцыке, які ажаніўся з дачкой літ. кн. Даўгерда і спрыяў набегам Л. на Русь, Лівонію і землі эстаў. Уладар інш. рускага княства ў Латыголі, Вячка з Кукенойса ў 1205 шукаў падтрымкі рыжскага біскупа супраць Л., а ў 1212 з



Аўтар В.Л.Насевіч



такой жа прапановай звярнуўся полацкі кн. Уладзімір. Войска Л. звычайна перапраўлялася на правы бераг Дзвіны каля Леневарды ці Кукенойса. У 1207 рыжскі біскуп арганізаваў паход у зямлю селаў на левабярэжжы Дзвіны, якая была пад кантролем Л. Каля 1208 адбыўся першы напад Л. на Валынь. У 1210 адзначаны набегі на Кукенойс і Наўгародскую зямлю, у 1213 — на Пскоў. Уладзімір Полацкі ў 1216 заключыў саюз з Л. супраць Рыгі, але хутка памёр, пасля чаго саюз, напэўна, распаўся. У наступныя гады Л. нападала на Наўгародскую зямлю (1217), Пскоў (1218), дзейнічала ў саюзе з Ордэнам мечаносцаў супраць Ноўгарада (1219). Тады ж быў заключаны *дагавор 1219* паміж Л. і Галіцка-Валынскім княствам, пасля чаго літ. войска прайшло праз валынскую тэрыторыю на Польшчу. Затым Л. ваявала на баку Пскова (1221) і Ноўгарада (1222) супраць Ордэна мечаносцаў, зрабіла напад на Таропец (1223), зноў ваявала з Ноўгарадам (1224). Летапісы адзначаюць асабліва буйны памер набегу 1225 на наўгародскія, смаленскія воласці, Таропецкае і Полацкае княствы: «бе бо рать велика ака же не была от начала миру». Набегі на Лівонію часова прыпыніліся з 1225 пад уражаннем ад канчатковага скарэння і хрышчэння эстаў. У 1229 адбыліся напады на наўгародскія воласці ў вярхоўях Волгі і на Берасце, што належала Галіцка-Валынскаму княству, у 1234 — на Русу (цяпер Старая Руса). Арганізаваны ў 1236 Ордэнам мечаносцаў пры ўдзеле крыжаносцаў з Зах. Еўропы і пскавічан вял. паход на Л. скончыўся паражэннем пры Саўле (гл. *Саўлеская бітва 1236*).

У дагаворы 1219 упершыню прыводзяцца звесткі, якія дазваляюць удакладніць месцазнаходжанне і ўнутраную структуру Л.: у яе склад уваходзілі *Жамойць*, Дзевалтва і не менш за 2 інш. лакальныя землі, узначаленыя мясц. дынастыямі (іх назвы ў дагаворы адсутнічаюць). Традыцыя, адлюстраваная ў бел.-літ. летапісах, лічыла цэнтрам Дзевалтвы г. Вількамір (цяпер Укмерге). Недалёка ад яго вядома стараж. паселішча Дзявілтоў, магчыма, ад яго пайшла назва Дзевалтоўскай зямлі. Разам з тым, у «Хроніцы Лівоніі» пры апісанні падзей 1210—20-х г. не згадваюцца ні Жамойць, ні Дзевалтва, якія павінны былі непасрэдна межаваць з Лівоніяй, а толькі Л. (Lethonia). Пры апісанні межаў новаўтворанага Курляндскага біскупства ў 1237 таксама адзначалася, што паміж Мемелем (цяпер Клайпеда) і Земгаліяй, у парэччы Венты, яно мяжуе з Л. (Letoviam). Уладанні Прускага біскупства ў 1243 таксама сутыкаліся на У з літ. (Letuinorum) межамі. Відавочна, пад Л. у такім сэнсе разумелася тэрыторыя шэрагу паўсамастойных княстваў, на якія распаўсюджваўся паліт. ўплыў дынастыі «старшых князёў». Да гэтай дынастыі належаў Міндоўг, які да канца 1230-х г. дасягнуў першынства над інш. князямі (у падзеях 1238 Іпацьеўскі летапіс згадвае «Литву Минъдога»). Пасля ўтварэння ў сярэдзіне 1240-х г. ВКЛ, куды ўвайшлі тэрыторыі этнічнай Л. і рус. княстваў Верхняга Панямоння, назва Л. ахапіла ўсе тэрыторыі, падпарадкаваныя ўладзе Міндоўга. Прынясце Міндоўгам каталіцкага хрышчэння ў 1251 выклікала з'яўленне шэрагу папскіх пасланняў, дзе згадваецца «кароль Л.» (regi Lithowiae, rex Lethoviae), «каралеўства Л.» (regnum Luthawiae), прычым у 1255 папа пацвердзіў Міндоўгу права валодаць землямі, адваяванымі ў «каралеўства Русі» — напэўна, Галіцка-Валынскага княства.

Крыніцы дазваляюць акрэсліць абшар, падуладны Л. ў сярэдзіне 13 ст. Іпацьеўскі летапіс пры апісанні падзей 1248 згадвае пад уладай Міндоўга Навагародак, Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў, а ў 1252 — таксама Гародню і паход галіцкага кн. Данілы «на Литву на Новгородок», які адбыўся, напэўна, у канцы 1252. У дарчай грамаце 1253 Міндоўг саступіў Лівонскаму ордэну шэраг валасцей у Жамойці, землі Надровію і Карсовію на ніжнім Нёмане (у Карсовіі ў 1259 быў пабудаваны крыжацкі замак Георгенбург — Юрбарк). Апрача таго, Міндоўг у 1253—57 кантраляваў (прынамсі, часткова) населеную прусамі Скалву, яцвяжскую Дайнаву і мясцовасці, якія з большай ці меншай упэўненасцю лакалізуюцца на левабярэжжы Нёмана: Вяйсея, Вейжы, Крэсмен і інш. У дакуменце рыжскага біскупа 1254 прыгадваюцца сумежныя з Земгаліяй землі Упіта і Саўле, што належалі Л. У грамаце 1255 і пацвярджальнай папскай буле 1257 фігуруюць уступленыя Міндоўгам Лівонскаму ордэну мясцовасці ў зямлі селаў, на Пд ад Дзвіны: Мядэна, Малейшы, Таўрогі і інш. На З ўлада Л. ў 1250-я г. не распаўсюджвалася на захопленыя крыжакамі куршскія воласці Пілсата (у ёй быў заснаваны ордэнскі замак Мемель), Мягове (з замкамі Паланга і Крэцінга), зямлю Цэкліс.

Аўтар *«Апісання земляў»*, які ўдзельнічаў у каранацыі Міндоўга, згадваў у адным шэрагу з Л. (Lectaui) асобныя землі Ятвезь (Ietuesi), Нальшчаны (Nalsani) і Жамойць (Samoita) і адзначыў асаблівую ўпартасць апошняй у захаванні язычніцтва. «Ліфляндская рыфмаваная хроніка» пры паведамленні пра падзеі часоў Міндоўга ўжывае назвы Л., «літоўцы» (Lettowen) як у шырокім сэнсе, так і ў вузкім, неаднаразова адасабляючы яе ад Жамойці (Sameiten) і аднойчы — ад Нальшчан (Nalsen). Праз апошнюю ішоў паходам лівонскі ландмайстар на ўласна Л. ў 1250. У Іпацьеўскім летапісе таксама сустракаецца такое адрозненне: у 1258 татары пры руху з Пд паслядоўна «воеваша земли Литовьскую и Нальшчаньскую», а ў 1264 з бацькоўскай Л. рушыў на скарэнне мяцежных Нальшчан і Дзевалтвы сын Міндоўга Войшалк. Відаць, Літ. зямля ў вузкім сэнсе ахоплівала тэрыторыю, якая з часоў дагавора 1219 непасрэдна належала «старшым князям». Міндоўг стаў яе аднаасобным уладаром каля 1248, гвалтоўна далучыўшы вотчыну сваіх пляменнікаў («поимана бе вся земля Литовьская»). Гэта не тычылася Нальшчанскай зямлі, валадаром якой у грамаце Міндоўга 1260 названы Гердзень (Gerdine de Naise). У той жа грамаце згаданы Парбусе з Неры (de Nere). Гэтая Нера, магчыма, была інш. варыянтам назвы Дзевалтвы (невядомай лівонскім крыніцам) і паходзіла ад літоўскай назвы р. Віліі — Нярыс. Пасля паходу Войшалка 1264 Нальшчаны, Дзевалтва і, магчыма, Упіта таксама трапілі пад непасрэдны кантроль вял. князя і, у адрозненне ад Жамойці, страцілі паліт. адметнасць. З канца 13 ст. яны альбо разглядаліся проста як часткі Л., альбо паглыналіся абагульняльным тэрмінам *Аўкштайція*. Супрацьпастаўленне Жамойці і Аўкштайціі як 2 частак уладанняў «літ. караля» ўпершыню ўжыта *Пятром з Дусбурга* пры апісанні падзей 1294—1300, а затым у дага-



воры вял. кн. Гедзіміна з Рыжскім магістратам (1323).

Удакладніць тэрыторыю Л. дапамагаюць даныя археалогіі, хоць іх інтэрпрэтацыя небясспрэчная. Агульнапрызнана балцкая прыналежнасць як грунтавых пахаванняў на З і ў цэнтры Літоўскай Рэспублікі, так і ўсх.-літ. курганоў 12—13 ст. У іх прасочваецца шэраг агульных рыс, у т.л. рытуальнае пахаванне коней разам з нябожчыкам ці яго попелам. Абрад гэты быў тыповым для літоўцаў да часу іх хрышчэння — паводле яго, як паведамляюць *Герман з Вартберга* і Длугаш, быў пахаваны вял. кн. Альгерд (1377). Пры гэтым складальныя часткі Л. мелі істотна розныя пахавальныя звычаі і інш. адметнасці, якія тлумачацца розніцай у этнічных працэсах папярэдніх часоў. Тэрыторыя Жамойці і Упіты ў цэлым супадае з арэалам грунтавых могільнікаў. Пры гэтым Жамойці адпавядае раён могільнікаў з трупапалажэннем на Жамойцкім узвышшы (воласці Крожэ, Лаўкаў, Кулена і інш., вядомыя з граматы Міндоўга 1253), Саўле ўтварала яе паўн.-ўсх. ускраіну, а Упіта займала паўн. частку могільнікаў з трупаспаленнем, пашыраных на абшарах Сярэднелітоўскай нізіны, у парэччы Нявежы. Паўд. частка могільнікаў з трупаспаленнем (воласці Расіены, Эйрагола і Бетыгола, згаданыя ў той жа грамаце) у больш познія часы таксама адносіліся да Жамойці. Фанетычныя асаблівасці выданняў на літ. мове 16—18 ст. дазваляюць сцвярджаць, што дыялект Жамойцкага ўзвышша набліжаўся да мовы паўд. куршаў, а дыялект парэчча Нявежы інтэрпрэтаваўся як «жамойцкая мова» (выданне на ім «Катэхізіса» М.*Даўкшы* ў 1595 выклікала наракання менавіта з гэтай нагоды). Тэрыторыі Нальшчан і Дзевалтвы адпавядае паўн. (завілейская) частка арэала ўсх.-літ. курганоў (Аўкштайцкае і Свянцянскае ўзвышшы).

Найб. спрэчнай застаецца лакалізацыя Літ. зямлі ў вузкім сэнсе. Паводле самай пашыранай версіі, яна ахоплівала паўд. частку таго ж арэала (Дзукскае ўзвышша і большасць Ашмянскай грады, прыкладна ў межах чатырохвугольніка Коўна—воз. Свір—Ліда—Мерач). У канцы 13—пач. 14 ст. паліт. цэнтры Л. (Кернаў, Вільня, Трокі) знаходзіліся ў арэале ўсх.-літ. курганоў. Балцкая гаворка Аўкштайцкага ўзвышша лічылася «літ. мовай», менавіта на ёй быў адмыслова перавыдадзены ў 1605 «Катэхізіс». Э.Гудавічус адзначыў існаванне ў гэтым арэале тапонімаў, якія пераклікаюцца з імёнамі прадстаўнікоў «старшай» дынастыі: Таўцівіла (Таўтвілтава), Едзівіда (Гядвіды), сына Міндоўга Руклі (у шэрагу двухчастковых тапонімаў). Але гэта не можа быць вырашальным аргументам пры лакалізацыі Літ. зямлі, бо невядомы час узнікнення гэтых паселішчаў, а сувязь іх з азначанымі асобамі недаказальная. Паводле інш. версіі, Літ. зямля знаходзілася ў ваколіцах Коўна, паміж Нёманам і нізоўямі Віліі. Арэал каменных магіл на Пд Літоўскай Рэспублікі, прылеглых частках Польшчы і Гродзенскай вобл. звычайна атаясамліваюць з яцвяжскімі землямі, у т.л. з Дайнавой. Але выказваліся меркаванні, што частку арэала каменных магіл на правабярэжжы Нёмана трэба звязваць з Літ. зямлёй у вузкім сэнсе, якая ў такім выпадку мела заходнябалцкія карані. Нальшчаны, Дзевалтва і Нера займалі ў такім выпадку ўвесь арэал усх.-літ. курганоў. Прыняцце такой гіпотэзы стварае складанасці з лакалізацыяй Дайнавы, але пытанне нельга лічыць канчаткова вырашаным. Згадка ў Іпацьеўскім летапісе пра тое, што Войшалк заснаваў манастыр «на реце на Немне межи Литвою и Новымъгородъкомъ», сведчыць, што Л. знаходзілася непасрэдна на Пн ад Нёмана. Між тым у Іўеўскім р-не, насупраць Лаўрышаўскага манастыра (які атаясамліваецца з манастыром Войшалка), вядомы менавіта каменныя магілы (каля в. Куправічы).

У цэлым для супрацьпастаўлення розных частак Л. (асабліва Жамойці, Аўкштайціі і Ятвязі) меліся як паліт., так і этнаграфічныя падставы. Пераважалі паліт. фактары, бо зямля Упіта, этнаграфічна больш родная Жамойці, у далейшым увайшла ў склад Л.-Аўкштайціі, а населеныя куршамі Мягове, Пілсата і Цэкліс — у склад Жамойці (у 1413 французскі падарожнік Жыльбер дэ Ланаа зафіксаваў, што гэтыя мясціны завуцца Літ. берагам і адносяцца да «Жамойцкай краіны»). Арэал каменных магіл часткова зліўся з Аўкштайціяй, а ва ўсх. частцы яго (як і ў частцы арэала ўсх.-літ. курганоў) адбывалася цераспалоснае рассяленне балцкага і славянскага насельніцтва. У выніку асіміляцыйных працэсаў (т.зв. балта-славянскага сінтэзу) яны часткова ўвайшлі ў склад этнічнай тэрыторыі беларусаў. Вельмі прыблізна можна сцвярджаць, што нашчадкі жыхароў гэтай часткі Л. забяспечылі да 10—15% бел. генафонду.

У 14—16 ст. назва Л. мела сэнс палітоніма — ужывалася для абазначэння ўсёй дзяржавы, падуладнай пануючай дынастыі Гедзімінавічаў. Арэал яго бытавання ў гэтым сэнсе супадаў з дзярж. межамі і мяняўся адпаведна іх зменам, безадносна ад этнічнага складу. Такое значэнне надавалі і замежныя аўтары. Так, у 1430-я г. рымскі легат Э.С.Пікаламіні (будучы папа Пій II) апісваў Л. (Lituania) як краіну, што мяжуе з Польшчай з У, прытым «мова народу славянская». Адначасова ён прыгадаў, што частка Л. яшчэ нядаўна вызнавала язычніцтва, хаця асаблівасці тамашняй мовы не адзначыў.

Паралельна існаваў рэгіянальны сэнс назвы Л. (т.зв. харонім), які адрозніваў яе ад Жамойці і ад рус. княстваў, далучаных у 14 ст. (за імі захавалася назва Русь). Тытулатуры «дзедзіч Л. і Русі», «Вял. княства Літоўскае і Рускае» і да т.п. дакументальна зафіксаваны ў 1320-я г., хаця ўзніклі, магчыма, раней. У прывілеі Ягайлы яго брату Скіргайлу 1387 асобна выступаюць «Литовская земля» з Троцкім княствам (да яго аднесены мясцовасці на Пд сучаснай Літоўскай Рэспублікі) і «руская сторона Литовского князения» з Менскам, Лагожскам, Ігуменам, Лебедзевам (цяпер у Маладзечанскім р-не) і шэрагам мясцовасцей у Падняпроўі. У бел.-літ. летапісах канфлікт паміж Жыгімонтам і Свідрыгайлам у 1432—37 трактуецца як процістаянне Л. і Русі: «Литва жь посадиша великаго князя Жидимонта Кестутевича на великое княженье на Вилни и на Троцех. И ... посадиша князя Швитрогаила на великое княженье Руское... Князь великии Швитригаило собра силу многу рускую и поиде на Литву, и повоеваша Литовьскои земли множество». Адрозненне Л. ад Жамойці замацавалася ў афіцыйным ужытку пасля адваявання Жамойці ў Тэўтонскага ордэна ў 1413. У 1417 Вітаўт ужыў трохчастковую тытулатуру «вял. князь Л., Жамойці, Русі і інш.»



(Littwanie, Samathie et Rusie etc.). У 1440 сын Ягайлы Казімір тытулаваўся як «королевич всее Литовское земли и Жомойтское и многих Руских земель». Харонім Л., вядомы таксама ў формах «Литовское князство», часам нават «Великое Князство Литовское» (пры захванні супрацьпастаўлення з Жамойцю і Руссю), шырока бытаваў у штодзённым ужытку 16 ст. У актавых кнігах Полацкага, Віцебскага, Берасцейскага ваяв. неаднаразова згадваецца Л. як вонкавая тэрыторыя: «з Литвы приехавши», «до Литвы еждывали» і г.д. У такім сэнсе яна ахоплівала, апрача ўласна літоўскай, частку этнічна бел. тэрыторыі ў Панямонні. Да яе адносіліся, напрыклад, Гародня, Ляхавічы, шэраг маёнткаў у сучасным Баранавіцкім р-не (у 1566 маёнтак Серабрышчы ў Л. адрозніваецца ад «палескіх маёнткаў») і інш. У попісе войска ВКЛ 1567 літ. маёнткі супрацьпастаўляюцца валынскім, падляшскім, жамойцкім: «з ыменей своихъ Жомоитскихъ ... а въ Литве съ повету Виленского з дворца Мойшакголского» і да т.п. Да Л. ў такім вузкім сэнсе залічаны мясцовасці ў Вількамірскім, Троцкім, Віленскім, Браслаўскім, на З Менскага, у Навагародскім пав. Маёнтак Косава ў Слонімскім пав. (цяпер у Івацэвіцкім р-не) у 1570 аднесены да Л., а ў інш. крыніцы тэрыторыя суседняга Бярозаўскага р-на прыгадваецца як вонкавая, праз яе праходзілі дарогі «до Литвы». Паходжанне значэння Л. ў якасці хароніма можна тлумачыць дваякім чынам. З аднаго боку, яно мела гіст. падставы: гэта былі тэрыторыі, якія трывала ўваходзілі ў склад ВКЛ з моманту яго ўтварэння, у адрозненне ад інш. земляў, якія альбо былі далучаны пазней, альбо часова выходзілі з-пад улады літ. князёў (Полаччына, Жамойць). Але не выключана, што Л. дадаткова асацыіравалася з тэрыторыяй дысперснага рассялення балтаў, нават у выглядзе нявял. анклаваў. Аб наяўнасці такіх анклаваў (пазней цалкам асіміляваных) сведчыць распаўсюджанне на З і ПнЗ Беларусі пахаванняў з каменнымі абкладкамі і насціламі, а таксама паселішчаў з несумненна балцкімі (Айнаравічы, Здзяцель, Зэльва) ці этнічна афарбаванымі назвамі (Літва, Літоўка, Дайнава, Жамойцкае), гістарычна зафіксаванымі ў 15—16 ст. Пра існаванне этнічных літоўцаў на гэтых абшарах сведчыць і просьба віленскага біскупа В.Табара ў 1501 накіраваць святароў, якія валодаюць літ. мовай, у 28 парафій, сярод якіх Ліда, Беліца, Слонім, Краснае Сяло, Валожын, Маладзечна, Радашковічы, Койданава. Адначасова ў Троцкім і Віленскім пав. (у меншай ступені Вількамірскім) крыніцы фіксуюць значную долю рус. насельніцтва. У такім выпадку Л. прыблізна адпавядае тэрыторыі, на якой адбываўся балтаславянскі сінтэз.

Рэгіянальны сэнс назвы (разам з паліт. і этнічным) захоўваўся і ў 17—18 ст. У скарзе правасл. шляхты на Варшаўскім сойме 1623 у адным шэрагу з Палессем, Панізоўем, Белай Руссю і інш. рэгіёнамі ўпамінаецца Л., а да гарадоў з рус. насельніцтвам у Л. аднесены Вільня, Менск, Навагародак, Гародня, Слонім, Берасце, Браслаў, Кобрын, Камянец. Цікавы прыклад суадносін Л. і ВКЛ дае выдадзеная ў Нясвіжы каля 1760 карта Літ. правінцыі ордэна францысканцаў. У легендзе да яе адзначана, што Л. (Litvania) падзяляецца на «ўласна Вялікае княства Літоўскае» (M[agnus] p[ro]prie D[ucatus] L[itvaniae]), Белую Русь і Жамойць, апрача якіх на карце паказана яшчэ і Палессе. Выкарыстанне назвы Л. ў якасці хароніма захавалася і ў часы Рас. імперыі. Яна паўплывала на тое, што ўтвораная ў 1796 праз аб'яднанне Віленскага і Слонімскага намесніцтваў губерня атрымала назву Літоўскай. Традыцыйна «літоўскімі» называліся затым Віленская і Гродзенская губ., на якія была падзелена ў 1801 Літ. губерня. Паэт А.Міцкевіч у 1-й чвэрці 19 ст. лічыў сваё родныя мясціны каля Навагрудка Л., пра што неаднаразова згадваў у сваёй творчасці.

*Літ.*: Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1985. T. 1; Zinkevičius Z. Lietuvių kalbos istorija. T. 3. Senųjų raštų kalba. Vilnius, 1988; Ochmański J. Historia Litwy. 3 wyd. Wrocław etc., 1990; Спиридонов М.Ф. «Литва» и «Русь» в Беларуси в 16 в. // Наш радавод. Гродна, 1996. Ч. 7.

***Вячаслаў Насевіч.***

**ліТВА ДВАРОВАЯ**, служылая праслойка ў Маскоўскай дзяржаве ў 16 ст., якая склалася з выхадцаў з ВКЛ. Пачала фарміравацца ў ходзе войнаў канца 15—пач. 16 ст., калі значная колькасць шляхты трапляла ў палон ці добраахвотна пераходзіла на бок Маскоўскай дзяржавы. Шмат палонных было захоплена ў бітве на Вядрошы 1500. У выніку падаўлення *Глінскіх мяцяжу 1508* у Маскву выехалі іх прыхільнікі. Пасля здачы Маскоўскай дзяржаве Смаленска ў 1514 большая частка яго залогі прыняла маскоўскае падданства. Як правіла, Л.д. не давяралі службу на зах. рубяжах Маскоўскай дзяржавы і выкарыстоўвалі яе ў ваен. дзеяннях на Пд і У. «Огненные стрельцы» з ВКЛ вызначыліся ў 1505 пры абароне Ніжняга Ноўгарада ад татараў, у 1524 Л.д., якой камандаваў М.Ю.Захар'ін, вызначылася ў паходзе на Казань. У т.зв. «Дваровым сшытку» 1550-х г. адзначана наяўнасць кампактнага кантынгенту Л.д. у Яраслаўлі, Растове, Раманаве, Мураме, Мажайску, Серпухаве, Кастраме і інш. Найб. уплывам Л.д. карысталася ў перыяд рэгенцтва А.Глінскай (1533—38), але ў часы праўлення Івана IV Грознага ў значнай ступені падверглася рэпрэсіям і як асобная карпарацыя перастала існаваць.

*Літ.*: Тысячная книга 1550 г. и Дворовая тетрадь 50-х гг. XVI в. М.; Л., 1950; Зимин А.А. Россия на пороге нового времени: (Очерки полит. истории России первой трети XVI в.). М., 1972.

***Алесь Белы.***

**ліТВАКІ**, адна за назваў яўрэяў ВКЛ. На думку этнографа М.А.Членава, да Л. адносілі яўрэяў Літвы, Беларусі, зах. раёнаў сучасных Бранскай, Смаленскай і паўд. раёнаў Пскоўскай абласцей Расіі. Ад інш. яўрэйскіх этнаграфічных груп Л. адрозніваліся сваім паўн.-ўсх. дыялектам мовы ідыш, асобнымі прыкметамі побыту, звычаяў і інш.

**ЛіТВІН** Міхалон, гл. *Міхалон Літвін.*

**ліТВІНЫ**, ліцвіны (лац. lituani), тэрмін, які выкарыстоўваўся ў гістарычных крыніцах для абазначэння насельнікаў *Літвы*. Як правіла, ён меў этнічнае значэнне (адносіўся да продкаў сучасных літоўцаў) у тых выпадках, калі Л. супрацьпастаўляліся «рускім», «русінам» (беларусам у сучасным сэнсе). Напрыклад, у сярэдзіне 15 ст. рымскі легат Э.С.Пікаламіні (будучы рымскі папа Пій II) адзначаў, што «русіны і многія з Л.» (Rutheni et multi ex Lituanis) трымаюцца грэчаскай веры, а іншыя з



Л. пакланяліся ідалам, але «ў наш час прымкнулі да вучэння Хрыста». Велікакняжацкі пасол Э.*Цёлак* у 1501 тлумачыў у Рыме, што Л. (Lithuani) маюць уласную мову, але шырока карыстаюцца мовай русінаў, якія складаюць «амаль палову» насельніцтва, «бо яна зграбная і лёгкая да ўжытку». *Міхалон Літвін* падкрэсліваў, што «руская мова чужая нам, Л., італійцам» (маючы на ўвазе папулярную ў 16 ст. легенду пра рымскае паходжанне Л.). У магдэбургскіх гарадах са змешаным насельніцтвам (Вільня, Трокі, Гародня) існавалі літ. і рус. кварталы, жыхары іх выбіралі асобных бурмістраў. Аднак жыхарам сярэдневякоўя не быў уласцівы сістэмны падыход да этнічнасці, вырашальным звычайна быў адзін крытэрый, прытым у кожным выпадку ён мог быць свой. Часцей за ўсё такую ролю адыгрывала веравызнанне. У ордэнскім паліт. памфлеце 1409 адзначаецца, што сярод носьбітаў літ. мовы (Litauwica lingua) многія хрысціліся ў «рутэнскую веру», у сувязі з чым дасюль сярод знаці ў Літве вял. колькасць складаюць «рутэны». Правасл. князі літ. паходжання называюцца рускімі і ў інш. крыніцах: у хроніцы Я.*Длугаша* так называецца ўнук Гедзіміна Фёдар Любартавіч, у *Хроніцы Быхаўца* — унук Альгерда Юрый Лугвенавіч, у нататках мітрапаліта Пятра Магілы — Уладзімір Альгердавіч. Выязджаючы на службу да маскоўскага цара, Гедзімінавічы лічылі сябе «рус. князямі літ. роду». Але пераход з праваслаўя ў каталіцтва не заўсёды меў такія ж наступствы. Ф.*Скарына*, імя якога паходзіць з каталіцкіх святцаў, неаднаразова падкрэсліваў сваю «рускую» ідэнтычнасць. У час жыцця ў Празе ён і яго сын Сямён мелі мянушку «Рус», «Русак».

Калі тэрмін «Л.» абазначаў жыхароў ВКЛ у цэлым ці яго частак, сумежных з інш. дзяржавамі, то мог адносіцца як да этнічных літоўцаў, так і да беларусаў, што назіраецца з пач. 16 ст. і ператвараецца ў агульную практыку з 17 ст. У такім сэнсе Скарына ў рэестры Кракаўскага ун-та запісаны як Л. (Litphanus). Маскоўскі патрыярх Філарэт у пач. 17 ст. накіроўваў свае памфлеты супраць «безбожной Литвы», маючы на ўвазе уніяцкае духавенства (практычна цалкам беларускае па паходжанні). Вядомы правасл. дзеяч Л.*Зізаній* разумеў пад «літоўскай» мовай старабеларускую, а пад «рускай» — царкоўнаславянскую. У прадмове да складзенага ім «Катэхізіса» ён пісаў, што гэтая кніга, «глаголемая по-гречески катехизис, по-литовски оглашение, русским же языком нарицается беседословие». Калі пры абмеркаванні «Катэхізіса» ў Маскве ў 1627 Зізанія пыталі пра значэнне пэўных царк.-слав. слоў «по литовскому языку», ён адказваў, што «понашему» яны азначаюць тое самае. Маскоўскія пісары ў сярэдзіне 17 ст. фіксавалі паходжанне палонных і ўцекачоў з ВКЛ: «литвин белорусец Мстиславского повету» і да т.п. Існаванне такой практыкі часта блытала іншаземных наведвальнікаў, якія таксама лічылі «літоўскай» мову насельніцтва рус. часткі ВКЛ. Так, С.*Герберштэйн* сцвярджаў, што «на літоўскай мове (Lithwani lingua) бізона называюць зубрам» (Suber), хоць па-літоўску гэтая жывёла завецца stumbras. Гэтак жа ён прывёў і «літоўскую» назву лася (Loss). Напэўна, дзякуючы кантактам пераважна з беларускамоўнымі жыхарамі ВКЛ ён залічыў Л. да слав. народаў «з калена Яфета». Венецыянскі дыпламат М.Фаскарына ў 1557 таксама пісаў, што «маскавіты гутараць і пішуць на славянскай мове, як гэта робяць далмацінцы, чэхі, палякі і Л. (Lithuani)». Рас. дыпламат кн. Б.Куракін у пач. 18 ст. па дарозе праз Беларусь адзначаў падабенства «літоўскай» мовы да расійскай, а ў Вільні са здзіўленнем заўважыў, што «тут язык литовский особый», і нават занатаваў шэраг балцкіх слоў.

Найб. складанай была ідэнтыфікацыя жыхароў той часткі ВКЛ, дзе назва Літва мела рэгіянальны сэнс. Літоўскамоўная частка такога насельніцтва звычайна адасаблялася і ад рускіх, і ад жамойтаў: у шэрагу петыцый у 1550-я г. жамойцкая шляхта прасіла вял. кн. Жыгімонта Аўгуста, «абы вряды в земли Жомойтской не были даваны ани Литве, ани Руси». У прадмове да выдадзенага ім у 1595 «Катэхізіса» М.*Даўкша* сцвярджаў, што пераклаў яго «на ўласную мову нашу літоўскую». Аднак у прадмове да перавыдання 1605 сцвярджалася, што мова 1-га выдання «жамойцкая», у сувязі з чым жыхары ўласна Літвы так і не мелі «катэхізісу літоўскага». Таму перавыданне было зроблена на дыялекце ваколіц Вільні, які перакладчык лічыў сапраўднай «літоўскай мовай». Перамога засталася ўрэшце за гаворкай парэчча Нявежы (родных мясцін Даўкшы), якая ў тытуле выдадзенай у 1737 літ. граматыкі названа «галоўным дыялектам гэтага Княства».

Жыхары беларускамоўнай часткі Літвы таксама маглі адрозніваться ў этнічным ці субэтнічным сэнсе ад Русі. М.*Сматрыцкі*, які не мог не ведаць рэальную сітуацыю з мовай і рэгіянальнай свядомасцю ў ВКЛ, у творы «Апраўданне нявіннасці» (1621) прыгадвае «Літву» сярод «хрысціянскіх рускіх народаў» у адным шэрагу з валынцамі, палясянамі (палешукамі), падалянамі, украінцамі, Белай і Чорнай Руссю і інш. Пад асобным «рускім народам Літвой» у такім кантэксце магло разумецца толькі беларускамоўнае насельніцтва Меншчыны, Ашмяншчыны і Браслаўшчыны, якое па нейкіх крытэрыях адрознівалася ад жыхароў Белай Русі (Падняпроўя і Падзвіння) і нават Чорнай Русі (Панямоння). У інш. выпадку селянін з Лагойшчыны пасля паездкі ў парэчча Бярэзіны тлумачыў, што ездзіў «на Русь жита куповать». Незразумела, кім ён лічыў сам сябе, і кім лічылі яго тамашнія жыхары, але няма падстаў вызначаць такую ідэнтычнасць як выключна «рускую». Пра тое, што яна магла быць «ліцвінскай», ускосна сведчаць этнаграфічныя запісы 19 ст. У іх зафіксавана, што насельніцтва на Пд ад Выганаўскіх балот лічыла тых, хто жыў на Пн ад іх, «Л.», а сябе — «палешукамі». Вельмі магчыма, што такія вызначэнні ўзніклі адначасова са з'яўленнем рэгіянальнага сэнсу назвы «Літва» ў 15—16 ст.

Сустракаліся і інш. значэнні паняцця Л. Так, створаная ў выніку Люблінскай уніі 1569 федэратыўная дзяржава мела афіцыйную назву «Рэч Паспалітая Абодвух Народаў» (палякаў і Л.). Пры гэтым пад «народам» Л. разумелася не простае насельніцтва яе этнічных літ. і рус. частак, а толькі шляхта, незалежна ад этнічнага паходжання.

*Літ.*: Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1; Спиридонов М.Ф. «Литва» и «Русь» в Беларуси в 16 в. // Наш радавод. Гродна, 1996. Ч. 7; Котлярчук А.С. Самосознание белорусов в литературных памятниках XVI—XVIII вв. // Русь—

Литва—Беларусь. М., 1997; Куолис Д. Понятие «литовец» и «литва» в литовской письменности XVI—XVII веков // Славяноведение. 1999. № 5; Марзалюк І.А. Людзі даўняй Беларусі: Этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII стст.). Магілёў, 2003.

*Вячаслаў Насевіч.*

**«Літоўскае апісанне шляхоў»,** геаграфічны твор канца 14—пач. 15 ст., створаны ў Нямецкім ордэне. У ім дэталёва апісаны маршруты, што вялі з Прусіі ў ВКЛ, названы населеныя пункты, адлегласць паміж імі, прыведзена інфармацыя пра рэкі, лясы, балоты і г.д. Праваднікамі рыцарскіх кантынгентаў па маршрутах былі пераважна людзі з прускіх пасяленняў, размешчаных на мяжы з ВКЛ, або перабежчыкі з ВКЛ. Чацвёртая частка апісаных маршрутаў праходзіла па зах. землях сучаснай Беларусі. Найб. часта ў іх згадваюцца Гародня, Ліда, Навагародак, Крэва, Гальшаны, Ашмяны, Васілішкі. Рукапісы твора выяўлены Т.Гіршам у Сакрэтным архіве Нямецкага ордэна ў Кёнігсбергу і надрукаваны ў 1863 у т. 2 выдання «Scriptores rerum prussicarum».

*Генадзь Сагановіч.*

**«Літоўская Метрыка»** («Литовская Метрика», «Lietuvos Metrika», «Lithuanian Metrica»), шматтомнае выданне кніг Метрыкі ВКЛ, якое ажыццяўляецца археографамі Ін-та гісторыі Літвы і Вільнюскага ун-та з 1993. Выдадзены кнігі запісаў 1, 3, 4, 5, 8, 9, 10, 11, 12, 15, 25, 51, 52, кнігі судовых спраў 4, 6, 8, 10, 11, кнігі публічных спраў 7, 8, 9, 10. Першыя кнігі серыі падрыхтаваны на аснове «Метадычных рэкамендацый» Г.Л.Харашкевіч і С.М.Каштанава (1985), у далейшым навукоўцы розных устаноў выпрацавалі адметныя падыходы ў выданні кніг Метрыкі. Інфармацыя пра выданні змяшчаецца ў бюлетэні «Новости Литовской Метрики» (выдаецца ў Вільнюсе з 1996). Бібліяграфічнае апісанне выданняў серыі «Л.М.» гл. ў канцы арт. *Метрыка Вялікага княства Літоўскага.*

**літоўская мова**, мова *літоўцаў*. Належыць да балтыйскай групы індаеўрапейскай сям'і моў. Была пашырана ў Вял. Літве (тэрыторыя цяперашняй Літ. Рэспублікі) і *Малой Літве* (частка Прускага герцагства). Адна са старажытнейшых індаеўрапейскіх моў побач з санскрытам, старажытнагрэчаскай і інш., з якімі ў яе шмат агульных рыс. Лічыцца, што Л.м. ў найб. ступені захавала асаблівасці праіндаеўрапейскай мовы. Гэта было абумоўлена геаграфічным фактарам: жывучы ў цяжкадаступных лясах Усх. Еўропы, балты захавалі вельмі архаічную мадэль мовы. Так, у Л.м. захаваліся праіндаеўрапейскія канчаткі -as, -is, -us, адрозненне галосных па даўгаце-кароткасці (з пераважным абазначэннем адпаведных гукаў living рознымі літарамі: y—i, ū—u і інш.), большасць старажытных дыфтонгаў (ai, au, ei, ie, ui, uo), у той час як у слав. мовах яны ператварыліся ў манафтонгі. Непасрэдна ад праіндаеўрапейскай мовы ўзяла пачатак балта-слав. мова, якая потым падзялілася на протабалтыйскую і праславянскую. Дакладных звестак пра тое, калі протабалтыйская (старажытнабалцкая) мова распалася на гаворкі, якія з цягам часу сталі самастойнымі мовамі, пакуль адсутнічаюць. Гэта павінна было адбыцца задоўга да новай эры. Гістарычна засведчаныя балцкія мовы падзяляюцца на заходнія і ўсходнія. Да заходнебалтыйскіх належаць жывая латышская, а таксама мёртвыя старажытнапруская (захаваліся пісьмовыя помнікі, на аснове якіх укладзены слоўнік) і яцвяжская, да ўсходнебалтыйскіх — літоўская (яе розныя дыялекты). Адрозненні паміж гэтымі падгрупамі вельмі старажытныя і ўзыходзяць да сярэдзіны апошняга тысячагоддзя да н.э. У выніку таго, што пад уплывам Лівонскага ордэна першы вял. князь літоўскі *Міндоўг* ахрысціўся паводле каталіцкага абраду, алфавіт Л.м. створаны на аснове лацінскага, складаецца з 32 літар (абазначаюць 10 галосных і 20 зычных гукаў). Першыя пісьмовыя помнікі на Л.м. адносяцца да пач. 16 ст. Першыя літ. кнігі (пратэстанцкі катэхізіс М.*Мажвідаса* 1547 і інш.) былі надрукаваныя польскім варыянтам лацініцы. У аснову сучаснага літ. алфавіту, які склаўся, як і сама сучасная літ. мова, у канцы 19 ст., пакладзена чэшская традыцыя (дыякрытычныя знакі для абазначэння шыпячых č, š, ž); польская традыцыя захавалася ў напісанні літар ą, ę, į, ų, якія раней перадавалі насавыя галосныя (насавы рэзананс страчаны яшчэ ў 16 ст., а літары цяпер служаць для адрознення аманімуючых слоў і граматычных форм). У часы ВКЛ у Прусіі кнігі на Л.м. выдаваліся нямецкім шрыфтам: «Пасціла» Вольфенбютэля (1573), «Энхірыдыён» і «Евангелле» Б.*Вілентаса* (1579), «Песні духоўныя»


Giesme S. Ambraßeiaus, bey S. Augustina, kure wadin: Te Deū laudamus. Su giesmemis apeischnumiesiu pelkelima Jesaus Christaus, Isguldidas per M. Mossuida Waitkuna ec. Ant naudos Ragaynes Baßniczey ir kitu eccl.

Да арт. **Літоўская мова**. М.Мажвідас. Гімн св. Амброзію з кнігі «Простыя словы катэхізіса». Каралявец. 1547.


Euangelias bei Epistolas / Nedeliu ir schwentuiu dienosu skaitomosias / Baßniczose Chrikscionischkosu / pilnai ir wiernai perguldytas ant Lietuwischka Szodzia / per Baltramieju Willenta / Plebona Karalauczui ant Schteindama.

Priegtam / ant gala priedeta jra Historia apie muka ir smerti Wieschpaties musu Jesaus Christaus pagal keturiu Euangelistu.

Ischspaustas Karalauczui per Jurgi Osterbergera / Metu
M. D. LXXIX.

Да арт. **Літоўская мова**. Б.Вілентас. Евангелле. Каралявец. 1579. Тытульны ліст.



KATHECHISMAS
ARBA MOKSŁAS
KIEKWIENAM
KRIKSZCZIONII PRI
WALUS.

PARASZITAS PER
D. IAKUBA LEDESMA Theologa Societatis IESU.

Iszguldicas iż Liezuvio Lankiszko ing Lietuwiszka per Kuniga Mikoloiu Daugsza Kanonika Zemaicziu.

Iszspáustas Wilniuie Metuse vzgimimo Wieszpaties 1595.

Да арт. **Літоўская мова**. Першая літоўская кніга, выдадзеная ў ВКЛ, — «Катэхізіс» Я.Лядэсмы ў перакладзе М.Даўкшы. Вільня. 1595. Тытульны ліст.

(1589) і «Пасціла» (1591) Ё.*Брэткунаса*, «Тэалагічная жамчужына» С.*Вайшнораса* (1600), «Псалтыр Давіда» Ё.Рэзы (1625). Імкнучыся мацней уздзейнічаць на вернікаў, у канцы 16 ст. кнігі на Л.м. пачалі друкаваць у ВКЛ каталікі. З гэтай мэтай у Вільні былі заснаваны 3 друкарні. Першай выдадзенай на тэр. ВКЛ літ. кнігай быў «Катэхізіс» Я.Лядэсмы ў перакладзе М.*Даўкшы* (1595), прадаўжальнікамі літ. кнігадрукавання ў Літве былі М.Пяткявічус, М.Маркунас, С.Славачынскіс і інш. Ужо ў «Катэхізісе» Мажвідаса змешчаны кароткія звесткі пра гукі Л.м. і ўведзены ва ўжытак некаторыя граматычныя тэрміны. Аўтарамі першых граматык Л.м. былі К.Сапунас і Т.Шульц («Compendium grammaticae Lithvanicae», Каралявец, 1673), Д.*Клейн* («Grammatica Lithvanica», Каралявец, 1653). Першы слоўнік Л.м. (польскалацінска-літоўскі «Dictionarium trium linguarum» К.*Сірвідаса*) выдадзены ў Вільні ў 1620. Слоўнік Л.м. быў падрыхтаваны таксама Сапунасам (не захаваўся). У 1680 Ф.Прэторыусам завершаны 2-томны нямецка-літоўскі слоўнік «Clavis Germanico-Lithvana». Пачынальнікам літоўскай мастацкай л-ры з'яўляецца ўраджэнец Малой Літвы К.*Данелайціс* (1704—1760).

Л.м. захавала ад індаеўрапейскай эпохі складаную граматычную сістэму, якая шмат у чым агульная са славянскай: 2 роды і 5 скланенняў назоўнікаў, парны лік, 7 склонаў, у т.л. клічны; множныя лічэбнікі, акрамя колькасных, парадкавых і дробавых; ускосны лад дзеяслова, акрамя абвеснага, умоўнага і загаднага, складаная сістэма форм дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў у залежнасці ад часу, трывання і стану; ужыванне дзеепрыметнікаў у ролі выказніка (што было перанята некаторымі суседнімі бел. гаворкамі), архаічныя сінтаксічныя звароты тыпу давальны самастойны і інш. Дзякуючы балцкаму моўнаму субстрату бел. мова мае пэўныя агульныя рысы з Л.м. у фанетыцы, марфалогіі і сінтаксісе: пазіцыйная мяккасць зычных, ётацыя пры збегу галосных, клічны склон, параўнальная ступень прыметнікаў і прыслоўяў з прыназоўнікам *за*, асобная форма загаднага ладу для выражэння сумеснага дзеяння, дробавыя лічэбнікі, структурна-семантычная блізкасць некаторых займеннікаў, агульная валентнасць паасобных дзеясловаў, канструкцыі тыпу «хвораму палепшала», пераважнае ўжыванне роднага склону з адмоўем, канструкцыі з дзеясловам «мець», даслоўнае супадзенне спалучэнняў тыпу «ставіць хату» і інш.

Лексіка Л.м. адлюстроўвае яе гіст. шлях развіцця. У ёй вылучаюцца індаеўрапейскі, балта-слав., балтыйскі, літоўскі пласты. Вынікі балта-слав. кантактаў аказаліся асіметрычнымі: у той час як у старалітоўскай мове словы бел. паходжання склалі значны пласт, нават многія літ. прозвішчы маюць слав. паходжанне, у старабел. мове ўсяго чатыры дзесяткі лексічных адзінак літ. паходжання.

Дыялекты Л.м. падзяляюцца на жамойцкія (заходнія, паўночныя і паўднёвыя) і аўкштайцкія (заходнія, усходнія, паўднёвыя). Паколькі аўтар першай літоўскай кнігі Мажвідас быў беглым пратэстантам з Жамойці, свой катэхізіс ён пераклаў на жамойцкую гаворку. Аднак у далейшым у аснову літаратурнай Л.м. ляглі найбольш архаічныя зах.-аўкштайцкія гаворкі (цяперашнія Шаўляйскі, Каўнаскі і Клайпедскі р-ны). У кнігах 17 ст. ўсталяваліся 3 варыянты



SUMMA
Abá
Trumpas iszguldimas
EWANIELIU
SZWENTU
Per
Wisus metus, dienomis Nedelos, Báżniciose Krikśćioniśkose staptomu,
O ánt gárbos
Wienam DIEWVY, su wala Wiriaśniuju del pážitka Wierniems, didey Kunigistey Lietuwos, ir del naminiku pas baźnu ánt użiwoimá namiszkia iszduotá.

KIEDAYNISE,
DRUKAWOIA, IOCHIMAS IURGIS
RHETAS, Metu Pona, 1653.

Да арт. **Літоўская мова**. Пасціла. Кейданы. 1653. Тытульны ліст.

пісьмовай Л.м. — заходні (мова Малой Літвы, заснаваная на зах.-аўкштайцкім дыялекце), блізкі да яе сярэдні (заснаваны на зах.-аўкштайцкім дыялекце ваколіц Кейданаў, выкарыстоўваўся ў Жамойцкім старастве ВКЛ і называўся «жамойцкай мовай») і ўсходні (уласна «Л.м.», заснаваная на ўсх.-аўкштайцкім дыялекце ваколіц Вільні). Першыя літоўскія кнігі ў ВКЛ выпушчаны Даўкшам на сярэднім варыянце пісьмовай Л.м. Тое, што ён у аснову сваіх кніг паклаў не сталічны дыялект, не спадабалася некаторым літоўцам. У 1605 у Вільні выйшла 2-е літоўскае выданне катэхізіса Я.Лядэсмы, раней перакладзенага Даўкшам. Аўтар новага перакладу гаворыць у прадмове, што Даўкша пераклаў Катэхізіс на «жамойцкую мову» і таму літоўцы скардзіліся: «Не маем катэхізіса літоўскага», што і падахвоціла яго перакласці Катэхізіс на «Л.м.» (г.зн. на ўсх.-аўкштайцкі дыялект). У 18 ст. ўсх. варыянт пісьмовай Л.м. саступіў месца сярэдняму, на базе якога сфарміравалася агульная літаратурная Л.м. ВКЛ. На ёй была заснавана першая граматыка Л.м., выпушчаная ў ВКЛ (Вільня, 1737). Невядомы аўтар граматыкі ўжо ў самой назве кнігі выказаў думку аб месцы, якое Л.м. павінна займаць у дзяржаве: «Сукупнасць моў Літвы, апісаная паводле граматычных законаў галоўнага дыялекту гэтага княства, і для карыстання старанным Неа-Палемонам прызначаная».



Мяркуецца, што доля літоўцаў сярод этнасаў ВКЛ складала 10%. З-за значнай тэрытарыяльнай і дэмаграфічнай перавагі слав. насельніцтва дзярж. мовай у ВКЛ стала старабеларуская. Ідэолагі літ. партыі А.*Ратундус* і *Міхалон Літвін* у адпаведнасці з пашыранай легендай аб рымскім паходжанні літ. знаці, якая ўвайшла ў многія летапісы і хронікі, лічылі Л.м. сапсаванай лацінскай мовай. На падставе таго, што бел. этнас узнік у выніку сінтэзу балцкага субстрату і слав. суперстрату і адстрату, мае ў культуры і мове шмат агульнага з літоўцамі і пражывае на былой балцкай тэрыторыі, якая называлася Літвой, на беларусаў пашырыўся этнонім *літвіны*, а на мову — назва «літоўская» («літоўска-руская»), што сучаснымі літ. гісторыкамі ў паліт. мэтах тлумачыцца літаральна. Л.м. не магла выконваць функцыю міжэтнічных зносін, бо калі ёю і валодалі асобныя прадстаўнікі слав. этнасу ВКЛ, то з-за невысокай долі этнічных літоўцаў у этнічнай структуры ВКЛ у параўнанні са славянамі такі білінгвізм не мог насіць масавы характар, бо не меў вял. практычнага значэння. Як адзначае З.Зінкявічус, Л.м. карысталіся толькі ў зах. частцы ВКЛ (і па іншы бок мяжы — ва ўладаннях крыжакоў і часткова ў Лівоніі), г.зн. у этнічнай Літве, хаця прывілеяваныя слаі асталяваліся далёка на У у многіх дзярж. цэнтрах, там таксама знаходзіліся і літ. воіны. У некаторых месцах перасяленцаў з этнічнай Літвы магло быць і болей, сустракаліся рэшткі плямён стараж. балтаў (прынамсі, у ранні перыяд). Па тых жа дэмаграфічных прычынах (з-за значнай перавагі славянскага этнасу над балцкім), а таксама з-за істотнай адрознасці Л.м. ад бел. мовы, што ўскладняла камунікацыю паміж прадстаўнікамі гэтых двух тытульных этнасаў, не маючы магчымасці быць мовай міжэтнічных зносін, Л.м. не магла выконваць і функцыю дзярж. мовы. Ва ўмовах шматразовай перавагі слав. этнічнага элемента над балцкім і набыло практычны сэнс засваенне этнічнымі меншасцямі, у т.л. і літоўскай, мовы слав. этнічнай большасці. Каб прыменшыць ролю слав. (бел.) этнасу ў стварэнні ВКЛ, сучаснымі вучонымі Літвы робяцца спробы дээтнізацыі афіцыйнай «рускай» мовы ВКЛ (яе называюць «канцылярска-

UNIVERSITAS
Lingvarum Litvaniæ
Jn Principali Ducatus Ejusdē Dialecto
*Grammaticis Legibus*
CIRCUMSCRIPTA.
& in obsequium
Zelosorum Neo-Palæmonū
ORDINATA
*Permissu Superiorum*
Anno
à Descriptione Universi Orbis
1737.



VILNÆ
Typis Collegii AcademiciSoc: JESU.

Першая граматыка **літоўскай мовы**, выдадзеная ў ВКЛ. Вільня. 1737. Тытульны ліст.

славянская», быццам яна не мела адносін да мясцовага бел. насельніцтва). Спасылаючыся на нешматлікія факты выкарыстання Л.м. ў афіцыйным жыцці на літ. этнічнай тэрыторыі, бел. мову «выціскаюць» са сферы афіцыйнага жыцця дзяржавы. Каб бел. мова ад пачатку не адпавядала самому паняццю «дзярж. мова», апошні тэрмін знарок звужаецца. Сцвярджаецца, што паколькі бел. мова была не адзінай у афіцыйным ужытку, а побач з ёю ў той жа функцыі выкарыстоўвалася яшчэ некалькі моў, то яна не была дзяржаўнай, г.зн. агульнадзяржаўнай, адзінай дзяржаўнай. Пры гэтым не бярэцца пад увагу несупастаўнасць маштабаў выкарыстання гэтых моў. Аднак выкарыстанне некалькіх моў у афіцыйным ужытку — з'ява даволі пашыраная. Паколькі да часоў Ягайлы і Вітаўта вял. літ. князі кіравалі дзяржавай праз сваіх намеснікаў і давераных асоб вуснымі ўказаннямі і толькі ў рэдкіх выпадках перапісваліся з замежнымі дзяржавамі (палацінску, па-нямецку і па-руску), то, на думку літ. даследчыкаў, ніякай гаворкі аб дзярж. мове ВКЛ наогул быць не можа. Пры гэтым выснову аб адсутнасці дзярж. мовы ў беспісьмовы перыяд у гісторыі этнічнай Літвы яны імкнуцца пашырыць на ўсё ВКЛ у прасторы і часе. Аднак незалежна ад таго, вусна ці пісьмова звярталіся да жыхароў ВКЛ праз сваіх намеснікаў вял. князі літоўскія, гэта была адна і тая ж мова, а паколькі яна не магла не быць у пэўнай ступені наддыялектнай (інакш яе нават беларусы з розных куткоў бел. этнічнай тэрыторыі не маглі б разумець), то гэта была ў пэўным сэнсе літаратурная, а значыць ужо на гэтай падставе афіцыйная мова. У другую крайнасць — адмаўленне існавання літ. этнасу наогул і мінімізацыі яго ролі ў стварэнні ВКЛ, — абсалютызуючы супярэчлівыя паказанні пісьмовых крыніц, упадаюць некаторыя бел. гісторыкі (М.Ермаловіч, П.Урбан, А.Жлутка).

*Літ.*: Lietuvių kalbos gramatika / Ats. red. K.Ulvydas. T. 1—3. Vilnius, 1965—76; Palionis J. Lietuvių literatūrinė kalba XVI—XVII a. Vilnius, 1967; Яго ж. Lietuvių literatūrinės kalbos istorija. Vilnius, 1979; Kazlauskas J. Lietuvių kalbos istorinė gramatika. Vilnius, 1968; Zinkevičius Z. Lietuvių kalbos istorija. T. 1—7. Vilnius, 1984—95; Яго ж. Lietuvių kalbos dialektologija. Vilnius, 1994; Яго ж. Восточная Литва в прошлом и настоящем. Вильнюс, 1996; Булыка А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980; Лаучюте Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках. Л., 1982; Александравичюс Ю. Литовский язык. Вильнюс, 1984; Грамматика литовского языка / Под ред. В.Амбразаса. Вильнюс, 1985; Лапінскене А.П., Мальдзіс А.І. Перазовы сяброўскіх галасоў: Бел.-літ. літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу. Мн., 1988; Karaliūnaitė J. Lietuvių kalbos vadovėlis. Vilnius, 1990; Sabaliauskas A. Lietuvių kalbos leksika. Vilnius, 1990; Свяжынскі У. Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага // METRICIANA. Мн., 2001. Т. 1; Дубоніс А. Да праблемы дзяржаўнай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім // Там жа. 2004. Т. 3.

*Уладзімір Свяжынскі.*

**Літоўская праваслаўная мітраполія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Візантыйскія крыніцы паведамляюць, што Л.п.м. заснавана пры імператару Андроніку II Палеалогу Старэйшым (1282—1328) і патрыярху Іаане XIII Гліке (1315—20). У 1317, 1327 і 1329 літ. мітрапаліт прысутнічаў у Канстанцінопалі на пасяджэннях патрыяршага сінода (крыніца 1329 называе яго імя — Феафіл). Відаць, ініцыятарам стварэння Л.п.м. быў вял. кн. Гедзімін, які імкнуўся да незалежнасці ад духоўнай улады Кіеўскай (фактычны

цэнтр — Масква) і Галіцкай мітраполій. Даючы згоду на стварэнне Л.п.м., Візантыя разлічвала на правасл. хрышчэнне язычніцкай Літвы. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што яна ахоплівала ўласна літ. землі і Верхняе Панямонне, іншыя лічаць, што ў яе складзе былі *Полацкая праваслаўная епархія* і *Тураўская праваслаўная епархія.* Мяркуецца, што кафедра мітрапаліта была ў Новагародку, хоць прамых сведчанняў пра гэта няма. Л.п.м. скасавана пасля смерці Феафіла (1330?), відаць, па ініцыятыве кіеўскага мітрапаліта Феагноста, як паведамляе візантыйскі дакумент, «часткова з-за таго, што ў Літве хрысціян вельмі мала, часткова з-за таго, што гэты народ, па суседстве з Руссю, зручна можа быць кіраваны рускім мітрапалітам».

Л.п.м. адноўлена па ініцыятыве вял. кн. Альгерда, які, валодаючы Кіевам, патрабаваў ад Візантыі зацвердзіць свайго кандыдата на пасаду мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Аднак у 1354 кандыдат Альгерда Раман (сваяк жонкі вял. князя) атрымаў прызначэнне толькі на пасаду мітрапаліта літоўскага з падначаленнем яму Полацкай і Тураўскай епархій (кафедра ў Новагародку). На далейшыя патрабаванні Рамана ў 1355 яму падначалены епіскапіі Малой Русі (відаць, гэта былі Уладзімірская, Луцкая і Холмская епархіі). З ваеннай дапамогай Альгерда Раман падначаліў сваёй уладзе Кіеў, Брансклую епархію, прэтэндаваў на Цвярскую. Пасля яго смерці (1362) канстанцінопальскі патрыярх у 1364 склаў акт аб скасаванні Л.п.м. і далучэнні яе епархій да Кіеўскай мітраполіі, аднак не выдаў яго з-за боязі абвастрыць адносіны з Альгердам. У 1371 Альгерд патрабаваў ад патрыярха прызначыць новага мітрапаліта ў ВКЛ. Для разбору яго прэтэнзій у ВКЛ пасланы Кіпрыян, які ў 1375 пастаўлены мітрапалітам «кіеўскім, рускім і літоўскім» з тым, каб пасля смерці кіеўскага (фактычна маскоўскага) мітрапаліта Алексія прыняў пад сваю ўладу і яго епархіі. Аднак у 1380 патрыяршы сабор прызначыў мітрапалітам «кіеўскім і Вялікай Русі» Пімена, а Кіпрыяну пакінуты тытул мітрапаліта «Малой Русі і Літвы». У 1381—82 Кіпрыян кіраваў абедзвюма мітраполіямі, а ў 1389 атрымаў тытул мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Пасля яго смерці (1406) вял. кн. Вітаўт прасіў канстанцінопальскага патрыярха пасвяціць на мітрапаліта кіеўскага і літоўскага Феадосія, епіскапа полацкага, але атрымаў адмову; мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі быў пастаўлены Фоцій (1408). Незадаволены яго дзейнасцю ў ВКЛ, Вітаўт у 1415 склікаў сабор у Новагародку, дзе епіскапы ВКЛ абралі новага мітрапаліта кіеўскага і літоўскага — Грыгорыя Цамблака. Правасл. царква ВКЛ стала фактычна аўтакефальнай, у склад Л.п.м. ўвайшлі Полацкая, Тураўская, Смаленская, Чарнігаўская, Луцкая, Уладзімірская, Холмская, Галіцкая і Перамышльская епархіі. Фоцій і канстанцінопальскі патрыярх Іосіф II абвясцілі адлучэнне Грыгорыя ад царквы, але ў ВКЛ ён лічыўся законным мітрапалітам да самай смерці (1419 або 1420). Грыгорый перанёс кафедру мітрапалітаў ВКЛ з Кіева ў Новагародак. Відаць, толькі ў ВКЛ меў рэальную ўладу мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Герасім (1432—35).

Мітраполія была адноўлена як уніяцкая з прызначэннем у 1458 Грыгорыя Балгарына мітрапалітам «кіеўскім, літоўскім і ўсёй Ніжняй Русі». Пад яго ўладай былі Полацкая, Тураўская, Смаленская, Бранская (Чарнігаўская), Уладзімірская, Луцкая, Холмская, Галіцкая і Перамышльская епархіі, а кафедра знаходзілася ў Новагародку. З адмовай у 1469 ад уніі і з прыняццем у 1472 тытула мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і ўсяе Русі Грыгорый стаў мітрапалітам самастойнай правасл. царквы ВКЛ. З таго часу Л.п.м. канчаткова стала называцца Кіеўскай мітраполіяй (гл. *Кіеўская праваслаўная мітраполія*).

*Літ.*: Павлов А.С. О начале Галицкой и Литовской митрополий и о первых тамошних митрополитах по византийским документальным источникам XIV века // Русское обозрение. 1894. № 5; Шевченко И.И. Некоторые замечания о политике константинопольского патриархата по отношению к Восточной Европе в XIV в. // Славяне и их соседи. М., 1996. Вып. 6.

***Валерый Пазднякоў.***

**Літоўскі ваад**, Ваад галоўных абшчын Літоўскай зямлі, з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх абшчын ВКЛ, вышэйшы орган яўрэйскай аўтаноміі. Дзейнічаў у 1623—1764. Створаны з мэтай размеркавання падаткаў, якія ўскладаліся каралеўскай уладай на ўсё яўр. насельніцтва, паміж асобнымі абшчынамі. Разглядаў таксама пытанні школьнай адукацыі, гандлю, арэнды, рэгламентацыі ў адзенні, правілы для прыезджых і інш. Узбуджаў крымінальныя справы супраць асоб, якія прычынілі крыўду абшчыне. Першапачаткова ў Л.в. уваходзілі 3 абшчыны: берасцейская, гарадзенская і пінская, з 1652 у дакументах згадваецца віленская, з 1691 — слуцкая. Астатнія абшчыны не былі прадстаўлены, аднак Л.в. прымаў рашэнні і ад іх імя. У апошнія гады дзейнасці Л.в. ў выбарах дэлегатаў прымалі ўдзел толькі 0,7% ад усяго яўр. насельніцтва ВКЛ: 91,3% пражывала не ў гэтых гарадах і таму пазбаўлялася права голасу, 6,9% не мелі права голасу з-за нізкага сац.-эканам. статуса. Такая дыскрымінацыя дробных абшчын прыводзіла да падачы з іх боку скаргаў у Трыбунал ВКЛ. У 1764 Л.в. скасаваны пастановай сойма ў сувязі з рэформамі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і ўвядзеннем новай сістэмы падаткаабкладання яўрэяў Рэчы Паспалітай. Апублікаваны пратаколы Л.в. ў перакладзе на рус. мову.

*Літ.*: Областной пинкос Ваада главных еврейских общин Литвы: Собрание постановлений и решений Ваада (Сейма) от 1623 до 1761 гг. Т. 1—2. СПб., 1909.

**Літоўскі прыказ**, гл. *Прыказ Вялікага княства Літоўскага.*

**літоўцы** (саманазва летýвяй, lietuviai), народнасць, адна з буйнейшых этнічных груп у ВКЛ. Фарміраванне народнасці і этнічнай тэрыторыі Л. адбылося ў 13—16 ст. Непасрэднымі продкамі сучаснага літ. этнасу былі 2 балцкія этнічныя супольнасці: паўночна-заходняя — жамойты і паўднёва-ўсходняя — Л. (аўкштайты). У сярэдзіне 13 ст. землі апошніх Літва, Нальшчаны, Дзялтува (Дзяволтва) і жамойцкія землі Упітэ, Сауле, Кнітува, Каршува і інш. разам са змешаным у этнічным плане Верхнім Панямоннем утварылі першапачатковае ядро ВКЛ. Аб'яднанне ў межах адзінай дзяржавы садзейнічала працэсу этнагенетычнай кансалідацыі жамойтаў і Л. (аўкштайтаў) у адзіную народнасць, утварэнню іх агульнай этнічнай тэрыторыі, саманазвы, мовы і культуры. Акрамя дзярж.-паліт. важную ролю ў фарміраванні літ. народнасці адыгралі гіст., сац.-эканам., дэмаграфічны, канфесіянальны і этна-



Да арт. **Літоўцы**. Літоўскія жанчыны з Усходняй Прусіі. Малюнак Э.Гізявіуса. 1-я пал. 19 ст.

культурны фактары. Крыжацкая агрэсія, доўгачасовая барацьба балцкага насельніцтва ВКЛ супраць захопнікаў вымушалі іх да аб'яднання. Разам з тым неаднаразовыя захопы Лівонскім і Тэўтонскім ордэнамі жамойцкіх зямель (з 1382 па 1411 амаль усёй Жамойці), паліт. сепаратызм часткі жамойцкай знаці і ўтварэнне асобнай аўтаномнай адм. адзінкі ВКЛ — Жамойцкага староства — перашкаджалі ўнутрыэтнічнай кансалідацыі Л. і прадвызначылі субэтнічны характар жамойтаў у іх складзе.

Пашырэнню этнасац. сувязей садзейнічала з'яўленне ў 13—14 ст. на тэр. сучаснай Літвы першых гарадоў, якія ўтвараліся вакол гарадзішчаў-замкаў. У 15—16 ст. колькасць гарадоў і мястэчак тут значна павялічылася, сфарміравалася сістэма іх паліт. і тэрытарыяльна-эканам. (гандлёвых) сувязей. Істотнае значэнне меў перанос у пач. 14 ст. сталіцы ВКЛ у Вільню, якая зрабілася гал. паліт., эканам. і культурным цэнтрам краю. У 14—16 ст. вырасла доля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва ў гарадах і мястэчках, многія з якіх атрымалі правы на самакіраванне (магдэбургскае права): Вільня (1387), Коўна (1408), Трокі (пач. 15 ст.), Расейны (16 ст.), Біржы (1589) і інш. Павышэнне таварнасці і прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі ў 15—16 ст. абумовіла імклівы рост насельніцтва ў ВКЛ, шчыльнасць якога ў літ. этнічных землях дасягала 8—9 чал. на 1 км$^2$, а ў наваколлі Вільні — да 20 чал. на 1 км$^2$. Літ. насельніцтва кампактна пражывала ў Жамойцкім старастве, Віленскім і Троцкім ваяв. Самай абжытай была тэрыторыя на Пд ад Віліі, правабярэжжа Нёмана і Жамойць, дзе найб. інтэнсіўна ішлі працэсы фарміравання адметнага комплексу культуры і мовы агульнага этнасу Л.

Важную этнакансалідуючую ролю адыграла хрышчэнне паводле каталіцкага абраду Літвы (Аўкштайціі) у 1387 і Жамойці ў 1413 пасля заключэння дынастычнага саюзу ВКЛ і Польскага каралеўства. Прыняцце хрысціянства балцкім насельніцтвам адбывалася з пэўнымі цяжкасцямі. У 1418 у Жамойці супраць увядзення новай рэлігіі ўспыхнула паўстанне, у многіх месцах па-ранейшаму вызнавалася язычніцтва, перажыткі якога ў нар. культуры мясц. насельніцтва захоўваліся да 19—20 ст. Утворанае ў 1387 Віленскае і ў 1417 Жамойцкае біскупствы аб'яднал і ўсе парафіі ВКЛ з балцкім каталіцкім насельніцтвам. На літ. землях у складзе Тэўтонскага ордэна (пасля Прускага герцагства) з 1525 шырокае распаўсюджанне атрымала лютэранства.

Актыўны ўдзел у этнагенезе Л. прынялі роднасныя паміж сабой балцкія супольнасці прусаў, яцвягаў, куршаў, земгалаў, селаў і латгалаў, частка якіх была асімілявана. Яны пакінулі свой след у дыялектах літ. мовы, у тапаніміцы. Частка літуанізаваных прусаў на тэрыторыі, каланізаванай Тэўтонскім ордэнам (Малая Літва), утварыла ў 16—17 ст. этнаграфічную групу літоўнікаў (летувінінкаў).

Значны ўплыў на развіццё мовы і культуры Л. зрабілі ўсх.-слав. насельніцтва ВКЛ, пазней і зах.-славянскае. Важную этнастваральную ролю для Л. мела наяўнасць у суседняга ўсх.-слав. насельніцтва традыцый дзяржаўнасці, існаванне гарадоў, уласнай пісьмовасці, спавяданне хрысціянскай рэлігіі і інш. Праз мову ўсх.-слав. насельніцтва ці ўласна з яе Л. запазычалі значную колькасць слоў, у першую чаргу гандлёвай і рэлігійнай лексікі (напр., літ. — turgus торг, гандлёвае месца, кірмаш, muitas — мыта, bažnyčia — бажніца, касцёл, царква, Kalėdos — Каляды, Velykos — Вялікдзень, karalius — кароль, bajoras — баярын і інш.). На думку літ. мовазнаўца А.Саліса, такая характэрная для Л.-дзукаў фанетычная з'ява, як дзуканне, з'явілася не раней 15—16 ст. і была звязана з бел. моўным уплывам. У гаворках усх. Л. у часы ВКЛ з'явіліся словы abrūsas — абрус, adyna — гадзіна, karčema — карчма, andorokas — андарак і інш. Працяглае этнакультурнае ўзаемадзеянне Л. і беларусаў у межах ВКЛ прывяло да з'яўлення шэрагу аднолькавых ці падобных элементаў у іх сац., духоўнай і матэрыяльнай культуры. Да запазычаных Л. ад беларусаў з'яў можна аднесці валачобны абрад бел. тыпу, звычай галашэння перад адпраўкай нявесты ў дом жаніха, радзінную абрадавую страву бабіна каша, фарбаванне яек і іх качанне на Вялікдзень, аўкштайцкую курную хату (пірка), некаторыя віды фальклору і інш. Дамінуючае становішча бел. этнасу ў ВКЛ выклікала паступовую асіміляцыю Л. і скарачэнне іх этнічнай тэрыторыі ў паўн.-зах. кірунку. Старабел. мова была афіцыйнай дзярж. мовай ВКЛ і з'яўлялася сродкам міжэтнічных кантактаў як паміж Л. і беларусамі, так і паміж прадстаўнікамі інш. этнічных супольнасцей. Літоўская ж мова доўгі час заставалася бяспісьменнай. Найб. хутка абеларушвалася літ. насельніцтва наваколля Вільні, дзе знаходзіўся шматлікі ўсх.-слав. асяродак. Балцкае насельніцтва засвойвала мясцовыя бел. гаворкі, што давала магчымасць далучэння да прэстыжнай мовы дзяржавы. Відаць, беларусізацыі краю спрыялі і хвалі перасяленцаў з усх. рэгіёнаў Беларусі, якія траплялі сюды пасля вынішчальных войнаў і эпідэмій 16—пач. 18 ст. У сваю чаргу Л. таксама аказвалі моцны ўплыў на развіццё мовы і культуры беларусаў.

Пэўная колькасць Л. у 14—16 ст. перасялілася на тэр. сучаснай Беларусі. Пра гэта сведчаць шматлікія тапонімы Літва, Літоўцы, Літоўск і інш. Гэтыя перасяленні адбываліся ў асноўным у зах. і цэнтр. рэгіёны Беларусі. Неадназначную трактоўку ў гістарыяграфіі ат-

рымала пытанне этнічнай прыналежнасці і паходжання сярэдневяковага насельніцтва ў ваколіцах в. Абольцы (цяпер у Талачынскім р-не). Гэта, відаць, самы ўсх. балцкі анклаў у Беларусі ў 15—16 ст., які адны даследчыкі (Е.Ахманскі, В.В.Сядоў, З.Зінкявічус) трактуюць як рэшткі «старажытных балтаў». Іншыя (Г.Лаўмянскі, А.П.Непакупны) лічаць, што гэта насельніцтва перасялілі сюды вял. князі літоўскія, хутчэй за ўсё Альгерд. У 14—16 ст. літ. насельніцтва кампактна пражывала таксама на Пн і З ад лініі Гародня—Шчучын—Ліда—Валожын—Крэва—Паставы—Браслаў, там меліся астраўныя пасяленні ўсх. славян. У наступныя стагоддзі большасць Л. гэтай тэрыторыі зведала працэс беларусізацыі і паланізацыі. Частка аўтахтоннага літ. насельніцтва пражывае ў Беларусі і ў наш час (ваколіцы Гервятаў у Астравецкім р-не, Пелясы ў Воранаўскім р-не, Опсы ў Браслаўскім р-не).

Эканам. і паліт. інтэграцыя літ. зямель суправаджалася ў 14—16 ст. кансалідацыяй шматлікіх катэгорый насельніцтва Літвы ў асобныя сац. групы-саслоўі з агульнымі для кожнай такой групы правамі і абавязкамі. Асн. масу насельніцтва Літвы ў 14—16 ст. складалі сяляне. Большая іх частка да канца 14 ст. заставалася свабоднымі землеробамі — лаўкінінкамі (ад літ. laukas поле), у абавязак якіх уваходзіла плаціць князю натуральную даніну (дзякла), удзел у нар. апалчэнні і інш. Яны былі членамі тэр. абшчын (палей), якія ўтваралі валасць. Унутранае жыццё абшчын рэгулявалася палявымі сходамі (*копамі*). Нязначную частку складала чэлядзь нявольная і *коймінцы*, якія належалі феадалам. Пасля хрышчэння Літвы і Жамойці з пач.15 ст. пачало пашырацца царк. землеўладанне. У пач. 15 ст. вял. кн. Вітаўт пачаў раздаваць вотчынныя землі разам з сялянамі (*вялдамамі*) ва ўласнасць ці часовае трыманне феадалам за вайсковую і інш. службу. У ходзе валочнай рэформы сярэдзіны 16 ст. ў ВКЛ адбылося канчатковае запрыгоньванне сялянства і склаліся іх асн. катэгорыі. Склад мяшчанства ў гарадах Літвы вызначаўся этнічнай стракатасцю. Большасць літ. шляхты мела каштоўнасныя арыенціры, характэрныя для ўсяго шляхецкага саслоўя ВКЛ, і была пад пэўным культурным уплывам з боку яго ўсх.-слав. прадстаўнікоў. Заключэнне Люблінскай уніі 1569 садзейнічала шырокаму распаўсюджванню польскай мовы і культуры. У 17—18 ст. літ. шляхта ў асн. масе была паланізаваная, што мела адмоўнае значэнне для развіцця літ. этнасу. Асн. носьбітамі этнавызначальных прыкмет Л. засталіся сяляне, часткова духавенства, дробная і сярэдняя шляхта.

Гал. гаспадарчым заняткам літ. сялян было земляробства, другаснае значэнне мела жывёлагадоўля, дапаможную ролю адыгрывалі рамёствы і промыслы. З 12—13 ст. панавала 3-польная сістэма севазвароту, аднак нярэдкай была і падсечна-агнявая сістэма апрацоўкі зямлі — ляднае земляробства. Сярод збожжавых культур гал. месца належала жыту, сеялі таксама пшаніцу, авёс, ячмень, з тэхнічных культур — лён. Пасля валочнай памеры 16 ст. раскіданыя зямельныя надзелы кожнай вёскі былі зведзены ў адно месца і падзелены на 3 роўныя надзелы для азімых, яравых і пад папар. Гал. землеапрацоўчай прыладай працы была 2-зубая саха (žagrė), якая была 2 тыпаў: т.зв. літоўская — з 2 паліцамі для парнай валовай вупражы, і т.зв. руская — з адной паліцай, прыстасаваная да коннай цягі. Дапаможнай прыладай апрацоўкі зямлі было рала (arklas). Сеялі ўручную з лубянкі-сявенькі (sėtuvė), жалі сярпамі (piautuvas), косамі (dalgė), паўкосамі (dalgelė), малацілі цапамі (spragilas).

Асн. формай пасялення была вёска (kaimas), якая налічвала ад некалькіх да некалькіх дзесяткаў сядзіб. На тэр. Малой Літвы з 16 ст. пашырыліся хутары. Да 16 ст. пераважала бессістэмная, ці кучавая, забудова. Пасля правядзення валочнай рэформы — вулічная. Асн. тыпам жылля быў нумас — 1-камерная зрубная хата з адкрытым ачагом без столі. Нумас выкарыстоўваўся аднačасова як жылое памяшканне і як хлеў. Зруб быў з круглых бярвён, страха масіўная, саламяная, 4-схільная. У 16 ст. у Аўкштайціі нумас быў выцеснены курнай хатай (dūminė pirkia) з печчу. Курная хата мела 2 памяшканні (хата і сенцы), зрубныя сцены былі з круглых бярвён, страха саламяная, 4-схільная.

Лакальныя, сац. і полаўзроставыя асаблівасці мела традыцыйнае адзенне Л. Сыравінай для ткацтва былі лён, пянька і воўна. Камплект мужчынскага сял. адзення складаўся з кашулі (marškiniai), штаноў, сярмягі, кажуха, розных галаўных убораў. Жаночы строй складалі кашуля, нясшытая стракатая спадніца — маргінес (ад margas — стракаты), безрукаўка (liemenė), фартух, сярмяга, кажух, пояс, ваўняная хустка, чапец і намітка (nuometas) для замужніх жанчын і вянок са стужкамі для дзяўчат. Паўсядзённым абуткам былі лапці і пасталы.

Аснову харчовага рацыёну насельніцтва 14—16 ст. складалі прадукты земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўлі. Дадатковымі крыніцамі былі паляванне, рыбалоўства (асабліва на ўзбярэжжы Балтыйскага мора), бортніцтва. З напояў найбольш спажываліся бярозавік (sula), мёд (midus), піва, квас.

Фальклор Л. складалі песні-дайны, галашэнні, казкі, легенды, паданні, магічныя заклінанні, загадкі, прыказкі і прымаўкі. Характэрная рыса літ. песні — лірызм. Шырокае бытаванне ў фальклоры, як і ў цэлым у нар. культуры Л., мелі язычніцкія матывы. Яскравым прыкладам зліцця язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў былі розныя формы малой архітэктуры — багата арнаментаваныя капліčкі-слупы (stogastulpis, koplytstulpis), каваныя крыжы і інш. У сярэдневякоўі сфарміраваліся асн. звычаі і абрады, звязаныя з земляробствам і жывёлагадоўляй, сямейная і каляндарная абраднасць Л. Вял. распаўсюджанне атрымалі звычаі суседскай узаемадапамогі — талака (talka), частаванне адзін аднаго свежынай, півам, мёдам і інш.

Фарміраванне літаратурнай мовы Л. звязана са з'яўленнем першых друкаваных кніг на літ. мове. Пачатак літ. кнігадрукаванню паклаў М.*Мажвідас*, які ў 1547 у Караляўцы выдаў пратэстанцкі катэхізіс. Яму папярэднічалі першыя пераклады рэлігійных песнапенняў, зробленыя ў пач. 16 ст. дзеячамі Рэфармацыі С.*Рапалёнісам* і А.*Кульвяцом*. У 1579—90 у Прусіі Ё.*Брэткунасам* зроблены пераклад на літ. мову Біблії М.Лютэра. Ім жа надрукавана некалькі кніг на літ. мове, сярод якіх «Пасціла» (1591). У 1595 у Вільні М.*Даўкша* надрукаваў першы каталіцкі катэхізіс на літ. мове, а ў

1599 — «Пасцілу каталіцкую». У сярэдзіне 17 ст. з'явіліся першыя граматыкі літ. мовы Д.*Клейна* (на лац. мове ў 1653 і на нямецкай у 1654), у аснову якіх былі пакладзены заходнеаўкштайцкія гаворкі ваколіц Коўна. У 17—18 ст. літ. мовазнаўствам і перакладамі займаліся К.Сапунас, Т.Шульц, П.Руйгіс. Нар. культура і побыт Л. знайшлі адлюстраванне ў працах Т.Лепнера і М.Прэторыуса. Пачынальнікам літ. класічнай літаратуры стаў К.*Данелайціс*, які ва Усх. Прусіі напісаў паэму «Поры года» (1765—75).

*Літ.*: Łowmiański H. Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1—2. Wilno, 1931—32; Iš lietuvių kultūros istorijos. T. 1—4. Vilnius, 1958—64; Lietuvių etnografijos bruožai. Vilnius, 1964; Basanavičius J. Rinktiniai raštai. Vilnius, 1970; Jablonskis J. Lietuvių kultūra ir jos veikėjai. Vilnius, 1973; Iš lietuvių etnogenezės. Vilnius, 1981; Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981; Lietuvių etnogenezė. Vilnius, 1987; Ivinskis Z. Lietuvos istorija. Iki Vytauto Didžiojo mirties. 2 leid. Vilnius, 1991; Gudavičius E. Lietuvos istorija nuo seniausių laikų iki 1569 m. T. 1. Vilnius, 1999; Zinkevičius Z. Lietuvių tautos kilmė. Vilnius, 2005.

***Юрый Унуковіч.***

**Ліхадзіеўскія**, княжацкі род у ВКЛ. З 17 ст. дадавалі да прозвішча мянушку Глінскія, бо традыцыйна лічылі сябе галіной князёў *Глінскіх*, што дакументальна не даказана. З пач. 19 ст. выводзілі род ад цвярскіх князёў, спасылаючыся на малаверагодны гербоўнік Ю.А.*Яблаunion* Першы вядомы прадстаўнік роду — кн. Васіль, сын якога Іван Васілевіч (?—каля 1551) і пляменнікі апошняга Ждан і Аляксандр Іванавічы (упамінаюцца ў 1559—87) валодалі вотчынным маёнткам Алекавічы ў Навагародскім пав. З гэтай сям'і паходзіў кн. Васіль Іванавіч, падстараста перавальскі ў 1580, які ў 1589 атрымаў ад Жыгімонта III землі ў Гарадзенскім пав. У пач. 19 ст. некалькі сем'яў Л. і Глінскіх-Ліхадзіеўскіх даказалі дваранства ў Мінскай губ., узводзячы сябе да роду князёў Л. Род Л., які даказаў дваранства з княжацкім тытулам і гербам «Ястрабец» у 1800, прадставіў бесперапынны радавод ад кн. Вацлава Глінскага-Ліхадзіеўскага, які ў 1656 валодаў часткай маёнтка Лазовічы ў Навагародскім ваяв. Яго сын Стафан (?—каля 1749) быў падстолім ліўскім, а ўнук Антон Гаўрылавіч (?—каля 1769) — мечнікам навагародскім. Сынамі апошняга былі Крыштоф, менскі стражнік (1773), чашнік (1777) і стольнік (1792), і Тадэвуш, ротмістр. Другая сям'я Л. герба «Ястрабец» даказала ў 1812 дваранства без княжацкага тытула. Іх родапачынальнік Мікалай у 1685 валодаў маёнткам Ліходзічы-Лазовічы ў Навагародскім ваяв. Дзве сям'і Л. герба «Ястрабец» даказалі дваранства ў 1816 і 1817 (апошнія названы «з князёў Глінскіх»), іх радавод прасочваецца з 18 ст. Яшчэ адна сям'я князёў Л. у 1816 даказала дваранства з гербам «Ясенчык» і прадставіла радавод ад кн. Аляксандра Л. У 19 ст., Л. за выключэннем некаторых галін, зацверджаны Герольдыяй у дваранстве, але без княжацкага тытула. У гэты час яны былі дробнымі землеўласнікамі і арандатарамі ў Мінскай губ.

***Станіслаў Думін.***

**ліцвіны**, гл. *Літвіны*.

**Лішкаўскі кляштар дамініканцаў.** Заснаваў у в. Лішкаў Гарадзенскага пав. (цяпер в. Лішкява Варэнскага р-на, Літоўская Рэспубліка) у 1694 войскі троцкі Уладзіслаў Ежы Касіла з жонкай Крысцінай з роду Гібеляў. У 1704—41 пабудаваны мураваны касцёл Св. Тройцы. Мае цэнтрычную кампазіцыю, у плане — грэчаскі крыж, злёгку выцягнуты па восі З—У (адзіны касцёл падобнага тыпу ў ВКЛ). Накрыты 8-гранным купалам з ліхтарыкам. Па краях франтона зах. фасада пастаўлены 2 дэкаратыўныя 2-ярусныя вежачкі з нішамі. Фасад, барабан і вежачкі ўпрыгожаны ордэрнай пластыкай. У касцёле знаходзяцца 7 разных алтароў і амбон у стылі ракако (адны з лепшых помнікаў такога роду ў Літве), інтэр'еры аздоблены ляпнінай і фрэскамі. Касцёл злучаны праходам з монументальным 2-павярховым кляштарным корпусам. Ён мае ў плане форму прамавугольніка (плошча больш за 80 м²), уключаў капліцу, трапезную, келлі. Кляштар скасаваны ў 1796, касцёл стаў парафіяльным, у 1821—23 адрамантаваны, у 1990-х г. адрэстаўраваны.



**Лішкаўскі кляштар дамініканцаў.**
Троіцкі касцёл.

*Літ.*: Reitelaitis J. Liškevos monografija // Musų senovė. 1922. № 3; Čerbulėnas K. Liškiavos ansamblis // Statyba ir architektūra. 1963. № 5.

**Лован** Станіслаў, гл. *Лавейка* С.

**Логвін** (Логвин) Рыгор Ніканавіч (н. 22.5.1910, с. Косыўка Александраўскага пав. Херсонскай губ.), украінскі гісторык архітэктуры. Ганаровы чл. Укр. акадэміі архітэктуры (1992), д-р мастацтвазнаўства (1968), заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны (1996). Вучыўся ў харкаўскім мастацкім ін-це (1931—34) і ін-це інжынераў камунальнай гаспадаркі (1934—36), Маскоўскім ін-це выяўленчага мастацтва (1938—41). З 1947 працаваў у Ін-це гісторыі і тэорыі архітэктуры ў Кіеве (з 1952 заг. сектара гісторыі архітэктуры). Даследуе гісторыю мастацтва і архітэктуры Украіны 11—18 ст. Дзярж. прэмія Украіны імя Т.Шаўчэнкі (1993), узнагароджаны медалём імя М.Грушэўскага (1992).

*Тв.*: По художественным памятникам Киева. М., 1960; Украинское искусство (X—XVIII вв.). М., 1963; Українське мистецтво XIV—першої половини XVIII ст. Київ, 1963 (з Л.С.Мілеевай); Чернигов, Новгород-Северский. Глухов. Путивль: Историко-архитектурный очерк. М., 1965 (2 изд. 1982); По Україні: Стародавні мистецькі пам'ятки. Київ, 1968; София Киевская: Государственный архитектурно-исторический заповедник. Киев, 1971; Украинские Карпаты: Книга-спутник по памятникам деревянной архитектуры XIII—XVIII вв. М.,

1973; З глибин: Давня книжкова мініатюра XI—XVIII століть. Київ, 1977; Киев: Архитектурные ансамбли и памятники. Л., 1980; Украина и Молдавия: Справочник-путеводитель. М., 1982; З глибин: Гравюри українських стародруків XVI—XVIII ст. Київ, 1990.

*Літ.*: Григорій Никонович Логвин — найстаріший співробітник НДІТІАМ // Теорія та історія архітектури і містобудування. Київ, 1998. Вип. 3.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Лоеў** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Лоеўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Рэчыцкім пав., на правым беразе Дняпра насупраць вусця Сажа. Упершыню згадваецца ў 1505 пад назвай Лоева Гара, належала да Кіеўскага пав. У 2-й пал. 15 ст. тут быў пабудаваны замак, які абараняў Татарскі брод цераз Дняпро. У 1505, 1506, 1536 і 1538 зведаў напады крымскіх татараў. З сярэдзіны 16 ст. мястэчка, цэнтр старасства. Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1646 сойм далучыў Лоеўскае старасства да Старадубскага пав. Смаленскага ваяв. ВКЛ. Л. значна пацярпеў у час антыфеадальнай казацка-сял. вайны 1648—51. У маі 1648 яго жыхары адчынілі гар. браму перад казацкім загонам М.*Нябабы*. У пач. 1649 жаўнеры польнага гетмана ВКЛ Я.*Радзівіла* штурмам узялі мястэчка і пасеклі казакоў і падтрымаўшых іх мяшчан. У чэрв. 1649 гарнізон Лоеўскага замка аказаў супраціўленне казацкаму Чарнігаўскаму палку С.*Падбайлы*, але замак быў захоплены і спалены. У *Лоеўскай бітве 1649* Радзівіл нанёс цяжкае паражэнне казацкаму войску М.*Крычэўскага*, у *Лоеўскай бітве 1651* ажыццявіў прарыў праз Татарскі брод сваіх войск на Украіну. У 1651 прывілеем караля і вял. князя Яна II Казіміра Вазы Лоеўскае старасства было перададзена ў кіраванне Радзівілу. На малюнку А. ван *Вестэрфельда* «Выгляд Лоева летам 1651 г.» паказаны ўмацаванні Л. Па перыметры мястэчка было ўмацавана абарончай сцяной з вертыкальна закапаных у зямлю адзін каля аднаго невысокіх драўляных слупоў, што складала 1-ы рубеж абароны. З Пд, З і Пн мястэчка мела вежы з уязнымі брамамі. Па перыметры Л. былі пабудаваны невысокія вартавыя вежы. На суседнім ад замка ўзвышшы знаходзілася Святатроіцкая царква. На Лоевай гары стаяў замак з невысокімі сценамі і вежамі. У цэнтры замка быў адм. будынак старасства. Каля падножжа Лоевай гары знаходзілася ўмацаваная валам ад нападаў з боку ракі набярэжная, якая выконвала функцыі рыначнай плошчы. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Л. у 1654 быў заняты і спустошаны войскам казацкага гетмана І.*Залатарэнкі* і да канца вайны прыпісаны да Чарнігаўскага палка. Пасля Андросаўскага перамір'я 1667 Лоеўскае старасства ў складзе Рэчыцкага пав. Менскага ваяв. ВКЛ. У 1676 яно перададзена соймам у спадчыннае трыманне рэчыцкаму войту С.М.Юдзіцкаму. У сак. 1684 каля Л. вакол старадубскага палкоўніка Я.Самайловіча згуртаваліся сяляне і мяшчане з усх. Беларусі, а таксама ўкр. казакі. Атрад Самайловіча выступіў з Л. і захапіў значную частку Мсціслаўскага ваяв. з Гомельскай, Чачэрскай і Прапойскай валасцямі, але вымушаны быў адступіць у межы Расіі. У 1701 у Л. ўспыхнула паўстанне сялян і мяшчан, штуршком да якога сталі высокія сял. павіннасці і вайсковыя паборы. Урадавае войска ВКЛ з дапамогай мясц. шляхецкага апалчэння разграміла паўстаўшых. У 1746 на Лоевай гары, у паўд. частцы замчышча пабудавана правасл. Мікалаеўская царква, але ў 1756 мясц. уніяты на чале са святаром Стафанам прагналі правасл. святара, а незадаволеных гэтым лоеўскіх мяшчан мясц. ўлады 3 тыдні трымалі ў кайданах і з дапамогай пагроз прымусілі перайсці ва уніяцтва. У 18 ст. Л. быў значным гандлёвым цэнтрам, у якім штогод праводзіліся 10 кірмашоў: 5 аднадзённых, 4 двухдзённыя, 1 трохдзённы. Акрамя гэтага, ладзіўся Дзесяцінны кірмаш (у пятніцу і суботу на 10-ы тыдзень пасля Вялікадня) у в. Крупейкі за 7 км ад Л. Мястэчка было перавалачным пунктам у транзітным гандлі па Дняпры. У канцы 18 ст. Л. падзяляўся на Верхні і Ніжні, меў 90 двароў, 5 вуліц: Базарную, Паштовую, Троіцкую, Казярогавую, Супрунову, а таксама Троіцкі завулак. Каля Л. працавалі вадзяны млын і шкляная гута, будаваліся судны-байдакі, існавалі ганчарны, гарбарны, канатны і інш. промыслы. Дзейнічалі паштовая станцыя, прыстань і паромная пераправа на шастах цераз Дняпро. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Т к а ч о ў М. Замкі і людзі. Мн., 1991; Г о р о б е ц ь В.М. Білорусь козацька: Пілковник Іван Нечай та українські змагання за Південно-Східну Білорусь (1655—1659). Київ, 1998; Памяць: Гіст.-дакументальная хроніка Лоеўскага раёна. Мн., 2000; А н і с а в е ц М. Лоеўскія кірмашы // Бел. гіст. часопіс. 2002. № 5; Я г о ж. Лоеў — старажытны горад на Дняпры // Там жа. 2005. № 6.

***Мікалай Анісавец.***

**Лоеўская бітва 1649**, буйнейшая на тэрыторыі ВКЛ бітва *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Ачысціўшы ад казацка-сялянскіх атрадаў Пд Беларусі, гетман польны ВКЛ Я.*Радзівіл* 21.7.1649 прывёў свае войска пад Лоеў, дзе за 3 км на ПнЗ ад мястэчка пабудаваў умацаваны землянымі валамі палявы стан і стварыў пагрозу прарыву праз Дняпро на Украіну і паходу на Кіеў у тыл паўстанцаў Б.Хмяльніцкага. Агульная колькасць войска Радзівіла складала 7301 чал., з іх 4088 чал. з ліку бел.-літ. шляхты, нямецкіх, венгерскіх і польскіх наёмнікаў былі зведзены ў 4 палкі і добра ўзброены. Каб не дапусціць прарыву вайсковых сіл ВКЛ на ўкр. землі і пашырыць паўстанне на Беларусь, 30 ліп. да Лоева падступіла кавалерыя паўстанцаў у складзе Кіеўскага, Чарнобыльскага і Оўруцкага палкоў на чале з наказным казацкім гетманам М.*Крычэўскім*. Маючы больш чым трохразовую перавагу ў людзях, але горшую іх падрыхтоўку і ўзбраенне, Крычэўскі насуперак волі казацкай старшыны 31 ліп. ў 9 гадзін раніцы распачаў бітву атакай кавалерыі на стан Радзівіла, не дачакаўшыся падыходу абозу і пяхоты і не аб'яднаўшы свае войска з Чарнігаўскім палком (6 тыс. чал.) С.Пабадайлы, які стаяў лагерам у сутоках Дняпра і Сажа насупраць Лоева. Раптоўны напад меў на мэце прымусіць Радзівіла адразу адступіць пад ахову валоў стана. У пачатку бітвы Крычэўскі меў поспех. Але становішча карэнным чынам змянілася, калі ў тыл казацкай кавалерыі знянацку ўдарылі аддзелы С.Камароўскага і А.Паўловіча ў 1200 коннікаў, якія вярталіся з дазору з-пад Брагіна. Казацкае войска было рассечана папалам, левае крыло разбіта, а правае на чале з Крычэўскім з боем адышло ў лес, спусцілася ў даліну Дняпра і ўмацавалася ў густым зарасніку непадалёк ад Брагінскага шляху. Скарыстаўшы адступленне Крычэў-



**Лоеўская бітва 1649**. Гравюра паводле малюнка Х.Эйгерда.

скага, Радзівіл рушыў з конніцай, пяхотай і артылерыяй да Татарскага броду (2 км ніжэй Лоева па Дняпры), дзе разбіў казакоў палкоўніка Пабадайлы, што перапраўляліся на правы бераг Дняпра, а затым перахапіў абоз і рассеяў пяхоту Крычэўскага, якія рухаліся па Брагінскім шляху. Крычэўскі спрабаваў зноў перахапіць ініцыятыву, яго лёгкая кавалерыя выйшла з лесу на дапамогу пяхоце, але вымушана была адступіць пад напорам драгунаў і гусараў праціўніка ў казацкія засекі. На зыходзе дня на працягу 2 гадзін казакі Крычэўскага адчайна абаранялі свой лагер ад праціўніка. Тройчы войска ВКЛ ішло на штурм, але кожны раз вымушана было адступаць са значнымі стратамі. Ноччу казакі скарысталіся адыходам войска ВКЛ у свой стан на адпачынак і пад покрывам цемры адступілі на Чарнігаў і Кіеў.

У Л.б. казакі пацярпелі цяжкае паражэнне і страцілі больш як 10 тыс. чал. Крычэўскі быў цяжка паранены і, пакінуты паўстанцамі каля казацкага лагера, трапіў у палон і памёр. Значныя страты панесла і ўрадавае войска: палегла каля 1700 чал. шляхты і наёмнікаў. Пахаваўшы забітых у 16 вялізных магілах на паўд. ускраіне Лоева, войска Радзівіла 6 жн. адышло пад ахову сцен Рэчыцкага замка. На вальным сойме, які адбыўся ў канцы 1649 у Варшаве, Радзівіл паднёс каралю Яну II Казіміру 50 казацкіх харугваў, узятых пад Лоевам. Л.б. мела розгалас у Еўропе і значна павялічыла аўтарытэт Радзівіла. У гонар яго перамогі пад Лоевам А. ван *Вестэрфельд* выканаў малюнкі з выявамі батальных сцэн, паводле якіх у 18 ст. на радзівілаўскай мануфактуры ў Карэлічах зроблена серыя габеленаў.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Lipiński W. Stanisław Michał Krzyczewski: Z dziejów walki szlachty ukraińskiej w szeregach powstańczych pod wodzą Bohdana Chmielnickiego. Kraków, 1912; Wisner H. Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła, 1648—1654 // Rocznik Bialostocki. Warszawa, 1976. T. 13; Чаропка В. Лоеўская бітва // Чаропка В. Уладары вялікага княства. Мн., 1996; Анісавец М. Па слядах Міхайлы Крычэўскага і Януша Радзівіла // Бел. гіст. часопіс. 1998. № 2; Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський // Історія України в особах: Козаччина. Київ, 2000; Dreścik J.J. Kampanie wojsk Wielkiego Księstwa Litewskiego przeciw powstaniu Chmielnickiego w rysunkach Abrahama van Westervelt // Muzealnictwo wojskowe. Warszawa, 2000. № 7.

***Мікалай Анісавец.***

**Лоеўская бітва 1651**. Адбылася 6 ліп. ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Абвясціўшы паспалітае рушэнне і добра падрыхтаваўшыся да паходу на Украіну для барацьбы з паўстанцамі, гетман польны ВКЛ Я.*Радзівіл* 29.6.1651 выправіўся з Рэчыцы са сваім войскам (12 800 чал.) уздоўж Дняпра да Лоеўскай Брамы (пераправы цераз Дняпро каля Лоева). Пераправы ад Лоева да Бабіч па Дняпры і Прыпяці трымалі казацкія аддзелы на чале з чарнігаўскім палкоўнікам М.*Нябабай* і іх саюзнікі — крымскія татары (агульная колькасць каля 50 тыс. чал.). Пад Лоевам Радзівіл сустрэўся з пасламі Б.Хмяльніцкага. С.Пабадайла перадаў гетману ліст ад Хмяльніцкага, у якім той прасіў не весці на Украіну войска, а ў адказ абяцаў загадаць казакам пакінуць тэр. ВКЛ. Радзівіл пагадзіўся не парушаць мяжы Украіны і на вачах паслоў накіраваў для абароны Смаленска атрад у 2500 чал. на чале са стражнікам ВКЛ Р.Мірскім. Паслы паведамілі Нябабе, што Радзівіл падзяліў сваё войска і не плануе паход на Кіеў. Гэта заспакоіла чарнігаўскага палкоўніка і казацкую старшыну. Ахоўваць пераправу насупраць Лоева засталіся толькі Чарнігаўскі і Нежынскі казацкія палкі (3 тыс. чал.). Аддзел Мірскага каля Гомеля патаемна пераправіўся цераз Сож і выйшаў у тыл казакам у сутокі Сажа і Дняпра. У выніку раптоўнага нападу раніцай 6.7.1651 і гадзіннай бітвы пераправа была захоплена. Радзівіл хутка пераправіў свае войска цераз Татарскі брод на левы бераг Дняпра. Аб яго прарыве цераз Дняпро Нябаба даведаўся ў Чарнігаве і адразу кінуўся выпраўляць становішча. Апоўдні каля ўкр. мястэчка Рэпкі аддзел у 15 тыс. коннікаў Нябабы сходу атакаваў харугвы Мірскага, але трапіў пад флангавую атаку асн. сіл Радзівіла і пацярпеў поўнае паражэнне. Амаль уся казацкая старшына і некалькі тысяч казакоў былі забіты, многія трапілі ў палон. Сам Нябаба быў паранены ў руку, а затым засечаны. Пераможцам дасталіся каля 20 казацкіх сцягоў. Толькі рэшткі казацкага войска разам з палкоўнікамі Пабадайлам, Літвіненкам і Шумейкам змаглі адступіць да Чарнігава. Шлях на Кіеў Радзівілу быў адкрыты. Л.б. пачаўся завяршальны этап антыфеад. вайны 1648—51, гал. зместам якога стаў удзел войск ВКЛ у падаўленні казацкага паўстання на Украіне. 4.8.1651 войска Радзівіла ўвайшло ў пакінуты паўстанцамі Кіеў. У гонар яго перамог у вайсковай кампаніі лета 1651 быў адчака-



**Лоеўская бітва 1651**. Малюнак А. ван Вестэрфельда.

нены памятны медаль, прыдворным мастаком гетмана галандцам А. ван *Вестэрфельдам* намалявана некалькі батальных сцэн.

*Літ.*: Летопись Самовидца. М., 1848; Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Wisner H. Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła, 1648—1654 // Rocznik Bialostocki. Warszawa, 1976. T. 13; Чаропка В. Кіеўскі трыумф // Чаропка В. Уладары вялікага княства. Мн., 1996; Dreścik J.J. Kampanie wojsk Wielkiego Księstwa Litewskiego przeciw powstaniu Chmielnickiego w rysunkach Abrahama van Westervelt // Muzealnictwo wojskowe. Warszawa, 2000. № 7.

***Мікалай Анісавец.***

**Лоеўскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе Дняпра ў цэнтры г. *Лоеў*. Пабудаваны на месцы паселішча мілаградскай культуры і гарадзішча 11—13 ст. Меў форму паўкруга дыяметрам каля 125 м, быў умацаваны земляным валам і ровам, якія ўпіраліся ў стромкі бераг ракі. З усх. боку, дзе вал адсутнічаў, замак ахоўваўся высокім (каля 20 м) і стромым берагам Дняпра, шырыня якога дасягала тут 400 м. Пад сценамі Л.з. знаходзілася найважнейшая пераправа, т. зв. Татарскі брод, які адчыняў крымскім татарам шлях у глыб Беларусі. Пасля аднаго з разбурэнняў Лоева і замка канцлер ВКЛ Л.Сапега «властным накладом своим замок и место на Лоевой Горе на шляху татарском заложил». Фактычна гэта было аднаўленне горада і замка, якія існавалі раней. Апісанні ўмацаванняў Лоева не захаваліся. Толькі на карце М.Струбіча 1578 пазначана высокая абарончая вежа. Тут, відаць, былі традыцыйныя драўляныя вежы і сцены-гародні. Паводле карт 17—18 ст., умацаванні Л.з. існавалі да далучэння ўсх. Беларусі да Рас. імперыі ў 1772. Археал. даследаванні Л.з. праводзіў М.А.Ткачоў (1980).

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхась Ткачоў.***

**Лойка** Павел Алегавіч (н. 12.7. 1958, г. Слонім), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1984). Скончыў БДУ (1980). З 1983 супрацоўнік, у 1990—2001 заг. аддзела гісторыі Беларусі 13—18 ст. Ін-та гісторыі АН Беларусі, адначасова з 1994 заг. кафедры гісторыі Беларусі страж. часу і сярэдніх вякоў БДУ. Даследуе праблемы аграрнай гісторыі Беларусі 16—18 ст., дзярж.-паліт. развіццё ВКЛ 16 ст. Адзін з аўтараў і рэдактараў калектыўных прац «Скарына і яго эпоха» (1990), «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. 1, 1994). Адзін са складальнікаў зборніка дакументаў і матэрыялаў «Сацыяльна-палітычная барацьба народных мас Беларусі: Канец XIV ст.—1648 г.» (т. 1, 1988). Аўтар навуч. дапаможнікаў і падручнікаў для школы.

*Тв.*: Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988 (з В.І.Мялешкам); Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII стст. Мн., 1991; І ўзняўся люд просты... Мн., 1992 (з Мялешкам); Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI — першай трэці XVII ст. Мн., 2002.

**локаць**, адзінка даўжыні. Вызначаўся даўжынёй рукі ад канца сярэдняга ці вял. пальца да лакцявога згіну. У розных еўрап. народаў у 13—18 ст. ва-

гаўся ад 29 да 63 см. У Рэчы Паспалітай з 1764 ужывалася назва каронны (літоўскі) Л., роўны 2 ступням (пядзям, футам) = 4 чвэрцям = 24 цалям (вяршкам, дзюймам) = 192 зерням (лініям) = 2,64 парыжскай лініі = 0,6496788 м (адпавядаў 25,57836 рус. дзюйма = 0,3044 сажня = 0,913513 аршына = 14,5 вяршка). Найб. ужываўся пры гандлі тканінай, будаўніцтве, вымярэннях зямлі.

*Літ.*: Горбачевский Н. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. Вильна, 1874; Каменцева Е.И., Устюгов Н.В. Русская метрология. 2 изд. М., 1975.

***Яўген Анішчанка.***

**Лорэнц** (Lorentz) Станіслаў (28.4.1899, г. Радам, Польшча—15.3. 1991), гісторык мастацтва. Чл. Польскай АН (1964), д-р габілітаваны (1943), праф. звычайны (1952). Скончыў Варшаўскі ун-т. У 1929—35 хавальнік помнікаў культуры Віленскага і Навагрудскага ваяв., выкладаў у Віленскім ун-це. З 1935 намеснік дырэктара, у 1936—45 і 1952—82 дырэктар Нац. музея ў Варшаве, у 1945—51 дырэктар Гал. дырэкцыі музеяў і аховы помнікаў; выкладаў у Варшаўскім ун-це. Выдатны арганізатар музейнай справы ў Польшчы. Ініцыятар і кіраўнік адбудовы Каралеўскага замка ў Варшаве. Працы па гісторыі мастацтва Польшчы і ВКЛ, музейнай справе.

*Тв.*: Wycieczki po województwie wileńskim. Wilno, 1932; Wycieczki słonimskie. Wilno, 1933; Jan Krzysztof Glaubitz, architekt wileński XVIII w.: Materiały do biografii i twórczości. Warszawa, 1937; Przewodnik po muzeach i zbiorach w Polsce. Warszawa, 1971 (3 wyd. 1982); Album wileńskie. Warszawa, 1986; Efraim Szreger — architekt Polski XVIII wieku. Warszawa, 1986; Walka o Zamek, 1939—1980. Warszawa, [1986]; Klasycyzm w Polsce. Warszawa, 1984 (2 wyd. 1990; з А.Ратэрмундам); Vladas Drėma — Stanisław Lorenz laiškai. Vilnius, 1998.

*Літ.*: Przeszłość przyszłości...: Księga pamiątkowa ku czci profesora Stanisława Lorentza w setną rocznicę urodzin. Warszawa, 1999 (змешчана бібліяграфія прац Л.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Лоская друкарня.** Існавала ў 2-й пал. 16 ст. ў мяст. Лоск Ашмянскага пав. (цяпер вёска ў Валожынскім р-не). Была цэнтрам арыянскага кнігадрукавання ў ВКЛ. Заснавана магнатам-арыянінам Я.С.Кішкам, які ў 1572 выкупіў у братоў М. і Г. Кавячынскіх абсталяванне Нясвіжскай друкарні і размясціў яго ў сваім замку ў Лоску. У Л.д. выдаваліся кнігі на польскай і лац. мовах (вядома каля 20 выданняў). Тут працавалі друкары Д.*Ланчыцкі* (1573—74), Я.*Карцан* (1576—80), Ф.*Балямоўскі* (1586—89?). Фактычна ідэйным кіраўніком друкарні ў 1570—пач. 1580-х г. быў С.*Будны*, які адначасова быў дворным прапаведнікам у Кішкі. У ліку найб. значных выданняў Л.д. творы Буднага: «Новы запавет» (яго пераклад, прадмова і каментарыі), «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Бог-Айцец», «Супраць хрышчэння дзяцей» (усе 1574), «Пра свецкую ўладу» (1583). Сярод інш. выданняў — палемічныя творы М.*Чаховіца*, А.*Волана*, кнігі рэктара арыянскай школы ў Іўі Я.Л.*Намыслоўскага*, трактат Цыцэрона «Пра абавязкі» (1575, пераклад С.*Кашуцкага*), Э.Варамунда Фрыза «Пра фурыі, або Вар'яцтвы французскія» (1576, пераклад Буднага; пра падзеі Варфаламееўскай ночы 1572). Асобнае месца ў дзейнасці Л.д. займае выданне вядомага твора А.Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577, пераклад Ц.*Базыліка*, прадмовы католіка М.*Стрыйкоўскага*, кальвініста Волана, арыяніна Буднага). Выданні Л.д. адметныя вострай палемічнай накіраванасцю, якая нярэдка выходзіла за межы тэалагічных праблем і ўзнімала пытанні дзярж. і сац. перабудовы грамадства. Перастала існаваць пасля 1592 пасля смерці Кішкі.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959.

***Людміла Іванова.***

**Лоскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у мяст. Лоск Ашмянскага пав. (цяпер вёска ў Валожынскім р-не). Меў драўляныя ўмацаванні ў выглядзе зрубных сцен-гародняў і баявых вежаў, якія сталі на кальцавым земляным вале. Паводле інвентару за 1621, тут было 10 трох'ярусных вежаў і двух'ярусная вежа-брама, што зачынялася варотамі і кратай-герсай. Сцены ў верхняй частцы завяршаліся баявой галерэяй з байніцамі і абламамі, накрытай двухсхільнай гонтавай страхой. На замкавым двары стаялі 2 двухпавярховыя палацы.

***Міхась Ткачоў.***

**лот**, адзінка масы ў ВКЛ. Раўняўся 1/32 фунта (11,71 г). На Беларусі Л. карысталіся да пач. 20 ст.

**лоўчы**, урад (пасада) у ВКЛ у 15—18 ст. Сачыў за лясамі, у якіх паляваў вял. князь, распараджаўся паляваннем. З канца 16 ст. Л. гаспадарскі, пазней вялікі (Л. ВКЛ), меў намесніка — Л. дворнага (падлоўчага). З канца 17 ст. пасада Л. — ганаровы тытул дзярж. саноўніка без пэўных абавязкаў, такое ж становішча займалі і Л. земскія ў паветах.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Лоўчыцкія**, Багатырэвічы-Лоўчыцкія, татарскі княжацкі род у ВКЛ. Родапачынальнік кн. Мартуза Багатырэвіч, каралеўскі перакладчык, у 1509 пасол у Арду. У 1522 атрымаў ад Жыгімонта I пацвярджэнне на людзей у Новагародскім, Троцкім і Гарадзенскім пав., падараваных вял. кн. Аляксандрам і набытых ім самім. Валодаў Лоўчыцамі пад Новагародкам, дзе выдзеліў зямлю для мячэці, мабыць, ім жа заснаванай. У 16—17 ст. Лоўчыцы — асн. ўладанне роду (адсюль прозвішча). Да пач. 17 ст. Л. не падпарадкоўваліся татарскім харужым і прыбывалі на вайсковую службу са сваім атрадам непасрэдна да гетманаў. У часы Жыгімонта III наёмнымі татарскімі харугвамі войска ВКЛ камандавалі праўнук Мартузы Багатырэвіча кн. Самуэль Муртозіч, яго дзядзька кн. Захарыяш Абдуліч (згаданы ў рэвізіі 1631), старэйшы сын апошняга кн. Адам Захаравіч (загінуў у Інфлянтах паміж 1627 і 1631). У 1707 Самуіл Л. атрымаў ад караля Станіслава Ляшчынскага 25 валок у Студзянцы і 68 валок у мяст. Ламазы ў Берасцейскай эканоміі. У 1742 кароль Аўгуст III дазволіў удаве татарскага ротмістра Рэгіне Лісоўскай уступіць 25 валок у Студзянцы паручніку татарскай харугвы Эльяшу Л., прызначыўшы яго камандзірам паселенага там татарскага атрада. У 1871 Л. даказалі ў Віленскай губ. дваранства з гербам «Сас» і княжацкім тытулам, які не зацверджаны Герольдыяй.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 638—639; Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929; Думин С.В. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wroclaw etc., 1991. T. 20.

***Станіслаў Думін.***

**Лугвен**, Лугвень, Лінгвен, Лангвен (у праваслаўі Сямён; каля

1355—1431), князь у ВКЛ. 4-ы сын вял. кн. *Альгерда* ад яго 2-га шлюбу з цвярской князёўнай Ульянай. Удзельнічаў у падпісанні ў Троках міру з Тэўтонскім ордэнам (29.9.1379). 14.10.1385 разам з інш. князямі падпісаў *Крэўскую унію 1385*. Удзельнічаў у *Мсціслаўскай бітве 1386* з вял. князем смаленскім Святаславам. У 1389—92 князь у Вял. Ноўгарадзе. Склаў тайна ад наўгародцаў прысягу Ягайлу як сюзерэну Ноўгарада. У 1390 спрабаваў далучыць да Ноўгарада Пскоў. Пад націскам Масквы з'ехаў з Ноўгарада, у 1392 атрымаў ад Ягайлы Мсціслаўскае княства. У 1396 пасрэднічаў у аднаўленні гандлёвага дагавора паміж Полацкам і Рыгай; разбіў войска разанскага кн. Алега, які дапамагаў вял. князю смаленскаму Юрыю Святаславічу абараняць незалежнасць Смаленскага княства ад ВКЛ. У 1402 разбіў разанцаў пад Любуцкам, захапіў



Пячатка **Лугвена** як полацкага князя. 1379.

у палон кн. Радаслава Алегавіча. У 1403 пры падтрымцы Вітаўта захапіў Вязьму, у 1404 захапіў і далучыў да ВКЛ Смаленск. У 1407 удала дзейнічаў у Вярхоўскіх княствах, далучыў да ВКЛ Варатынск. У 1407 зноў запрошаны ў Ноўгарад і княжыў там да 1412. Відаць, адначасова ў 1408—11 быў велікакняжацкім намеснікам у Смаленску. З наўгародскімі атрадамі ўдзельнічаў у *Вялікай вайне 1409—11* супраць Тэўтонскага ордэна, у крытычны момант *Грунвальдскай бітвы 1410* мужнасць мсціслаўскай, аршанскай і смаленскай харугваў ВКЛ на чале з Л. выратавала саюзныя арміі ад разгрому крыжакамі. Удзельнічаў у падпісанні *Тарунскага міру 1411*. У 1411 кіраваў адбіццём шведскай агрэсіі ад Ноўгарада, заключыў ад імя Ноўгарада дагавор з Ягайлам супраць крыжакоў. У 1412 з-за маскоўскіх інтрыг выехаў з Ноўгарада ў Мсціслаў. У 1430—31 у барацьбе Свідрыгайлы з Жыгімонтам Кейстутавічам падтрымлі-



Пячатка **Лугвена**. Гравюра. 1841.

ваў першага. Заснаваў каля Мсціслава *Ануфрыеўскі манастыр* (1407). Ад 1-й жонкі Марыі (?—1399), дачкі вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога, меў сына Юрыя, ад 2-й (імя невядомае) — сына Ярослава (гл. *Мсціслаўскія*).

*Алесь Белы.*

**Лужкоўскі Міхайлаўскі касцёл.** Пабудаваны ў 1744—56 у мяст. Лужкі ў Полацкім ваяв. (цяпер вёска ў Шаркаўшчынскім р-не) пры *Лужкоўскім піярскім калегіуме*. Адзін з найб. яркіх узораў *віленскага барока*. Мураваны 2-вежавы аднанефны храм накрыты 2-схільным дахам з атыкавымі франтонамі на тарцах. Больш нізкая апсіда мае лучковае завяршэнне і самастойны шматсхільны дах. 4-ярусныя вежы размешчаны пад вуглом 45° да плоскасці гал. фасада, што надае яму прасторавае вырашэнне. Гал. фасад падзелены гарызантальнымі цягамі на 2 ярусы і завершаны фігурным франтонам. У дэкоры выкарыстаны ордэрная пластыка, 2-колерная атынкоўка, разнастайныя абрамленні праёмаў з лучковымі, паўцыркульнымі і фігурнымі арачнымі завяршэннямі. Інтэр'ер перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Над уваходам крывалінейныя ў плане хоры.



**Лужкоўскі Міхайлаўскі касцёл.**

*Тамара Габрусь.*

**Лужкоўскі піярскі калегіум.** Дзейнічаў у 1745—1832 у мяст. Лужкі Полацкага ваяв. (цяпер вёска ў Шаркаўшчынскім р-не). Піяры былі запрошаны сюды ў 1741 уладальнікам мястэчка кашталянам полацкім Валерыянам Жабай (у яго гонар калегіум называўся Валерыянаўскім), які падараваў манахам фальварак Віснік, адвёў месца для пабудовы кляштара, касцёла (гл. *Лужкоўскі Міхайлаўскі касцёл*) і калегіума. Жонка Жабы ахвяравала на калегіум 1000 злотых. У канцы 1750-х г. навучальная сістэма калегіума рэарганізавана паводле рэформаў С.Канарскага. У апошняй чвэрці 18 ст. ў час дзейнасці Адукацыйнай камісіі калегіум уваходзіў з 1783 у Навагародскую, з 1790 у Піярскую навуч. акругі, у 1782 былі 3 класы з тэрмінам навучання 6 гадоў, 4 выкладчыкі, 130 вучняў. Візітатары з Віленскай гал. школы адзначалі нездавальняючы ўзровень адукацыі і нізкі стан дысцыпліны. Пасля далучэння да Рас. імперыі (1793) калегіум пераўтвораны ў павятовае 4-класнае вучылішча з 6-гадовым тэрмінам навучання. У 1832 зачынена, маёмасць піяраў канфіскавана.

*Андрэй Самусік.*

**Лукашэвіч** (Łukaszewicz) Юзаф Анджэй (30.11.1799, в. Крамплева каля Познані, Прусія—13.2.1873), гісторык, публіцыст, бібліятэкар. Вучыўся ў Ягелонскім ун-це. Супрацоўнік, у 1829—49 дырэктар б-кі Э.Рачынскага ў Познані, у 1838—42 настаўнік польскай мовы ў пратэстанцкай гімназіі імя Фрыдрыха Вільгельма, працаваў у гар. архіве. Рэдагаваў час. «Przyjaciel ludu» («Сябар народу», 1839—45) і «Orędownik nauk» («Прыхільнік навук», 1840—46). У 1852 пасяліўся ў вёсцы і цалкам заняўся навукай. Знаходзіўся пад моцным уплывам поглядаў І.*Лялевеля*. Даследа-



ваў пратэстанцкія веравызнанні і Рэфармацыю ў Польшчы і ВКЛ. Аўтар прац па гісторыі арыянства, кальвінізму, лютэранства і інш. пратэстанцкіх кірункаў у Польшчы (па рэгіёнах) і ВКЛ. Адзін з буйнейшых даследчыкаў Рэфармацыі ў Рэчы Паспалітай. Крытычна ставіўся да папярэдняй навук. л-ры, але пры напісанні «Гісторыі цэркваў гельветычнага веравызнання ў Літве» не выкарыстаў бел. і літ. архівы, што абумовіла шэраг недакладнасцей. Выдаў «Мемуары» Я.Х.Пасака. Чл. Пазнанскага т-ва сяброў навук, Кракаўскага навук. т-ва (1858).

*Тв.*: Obraz historyczno-statystyczny miasta Poznania w dawniejszych czasach. T. 1—2. Poznań, 1838 (2 wyd. 1998); Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T. 1—2. Poznań, 1842—43; Jeografia starożytnej Polski ku powszechnemu użytkowi wydana. Poznań, 1842; Geschichte der reformirten Kirchen in Lithauen. Bd. 1—2. Leipzig, 1848—50; Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem od najdawniejszych czasów aż do roku 1794. T. 1—4. Poznań, 1849—51; Krótki opis historyczny kościołów parochialnych, kościółków, kaplic, klasztorów, szkółek parochialnych, szpitali i innych zakładów dobroczynnych w dawnej dyecezyi poznańskiej. T. 1—3. Poznań, 1858—63; Krótki historyczno-statystyczny opis miast i wsi w dzisiejszym powiecie krotoszyńskim od najdawniejszych czasów aż po rok 1794. T. 1—2. Poznań, 1869—75.

*Літ.*: Kosman M. Józef Łukaszewicz // Wybitni historycy wielkopolscy. Poznań, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**лукно**, адзінка вымярэння, пераважна мёду. Упершыню згадваецца ў Рускай праўдзе. У актавых матэрыялах 16 ст. вагавы эквівалент Л. не мае пэўнага вызначэння: у адных ён роўны 10 пудам, у другіх — 50 фунтам. Л. называлі і пасудзіну для захоўвання мёду, аднак памер яе нявызначаны. У адным з актаў (1449) гаворыцца пра «пятипядное лукно мёду». Л. было таксама адзінкай штогадовай мядовай даніны.

***Станіслаў Цярохін.***

**Лукомль** (цяпер вёска ў Чашніцкім р-не, Рэспубліка Беларусь), горад у Полацкай зямлі, пасля мястэчка ў Аршанскім пав., на р. Лукомка. Узнік у 9 ст., упершыню ўпамінаецца ў 1078. З 12 ст., магчыма, цэнтр удзельнага *Лукомскага княства*. З 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 14—16 ст. належаў князям роду *Лукомскіх*. У час канфлікту з Ягайлам у 1386 пасля доўгай аблогі ўзяты кн. *Андрэем Альгердавічам*. У 1392 выхадцы з Валыні заснавалі тут Мікалаеўскі манастыр. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* замак у Л. разбураны войскам цара Івана IV Грознага (1563). У 16—18 ст. мястэчка ў Аршанскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Насевіч В.Л. Лукомль і Лукомльская воласць // Гіст.-археал. зб. Мн., 1994. № 4.

**Лукомскае княства**, феадальнае ўладанне на землях вакол Лукомскага возера. Цэнтр — *Лукомль*. На думку археолага Л.В.Аляксеева, Л.к. магло ўзнікнуць як адзін з удзелаў Полацкай зямлі ў 12—13 ст., але ў тагачасных крыніцах ніводны князь не названы яго ўладальнікам. Відаць, яно было падаравана кімсьці з вял. князёў літоўскіх заснавальніку роду князёў *Лукомскіх* у сярэдзіне—2-й пал. 14 ст. У 2-й трэці 15 ст. значная частка княства зноў трапіла ва ўласнасць вял. князя або ў выніку згасання адной з галін князёў Лукомскіх, або праз канфіскацыю часткі іх уладанняў за падтрымку кн. Свідрыгайлы ў час яго барацьбы з Жыгімонтам Кейстутавічам. Гэта частка Л.к. была тады ж раздадзена інш. феадалам: паны Саковічы атрымалі Улу, Боліна і Свяда ў міжрэччы Улы і Эсы, паны Кезгайлы — землі ў вярхоўях Эсы, дзе пазней узнік маёнтак Халопенічы. Напэўна, тады ж Цяпіна стала цэнтрам маёнтка Амельяновічаў, а Чарэя — паноў Чарэйскіх. Рэшта княства з маёнткамі Лукомль, Гарадзец, Меляшковічы, Шчыдуты, Пірошыцы і інш. засталася ва ўладанні князёў Лукомскіх. У выніку падзелаў паміж імі раздрабілася і фактычна перастала існаваць як адзінае цэлае ўжо ў 16 ст.

*Літ.*: Насевіч В.Л. Лукомль і Лукомльская воласць // Гіст.-археал. зб. Мн., 1994. № 4.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Лукомскія**, княжацкі род герба «Рох» зменены (у чырвоным полі 3 сярэбраныя бэлькі рознай даўжыні, над імі сярэбраная лілея, у якой сярэдні пялёстак заменены на крыж). Магчыма, паходзяць з мясц. князёў, нашчадкаў полацкага кн. Усяслава Брачыславіча, але паходжанне дакладна не высветлена. Упершыню згадваюцца князі Васіль (1463) і Іван (у 1473 з'ехаў у Маскву, дзе ў 1493 пакараны смерцю за змову супраць вял. кн. Івана III). У пач. 16 ст. вядома некалькі князёў Л., якія сумесна валодалі замкам і мяст. Лукомль і інш. маёнткамі ў *Лукомскім княстве*. З іх Фёдар Іванавіч у 1508 удзельнічаў у мяцяжы князёў Глінскіх. Відаць, яго братамі былі Іван Іванавіч (каля 1460—пасля 1520), уладальнік Шчыдутаў і Гарадца, заснавальнік шчыдуцкай галіны Л., Андрэй Іванавіч (каля 1470—пасля 1528), уладальнік Меляшковічаў і Бельнякоў, заснавальнік згаслай у 1-й пал. 17 ст. меляшковіцкай галіны, і Раман (?— пасля 1500), уладальнік Пачаевічаў у Лукомскім княстве, Дабрыгораў у Полацкай зямлі і Лічкава ў Лідскім пав. Іх нашчадкі раздрабілі свае ўладанні. З 2-й пал. 16 ст. яны неаднаразова займалі павятовыя пасады пераважна ў Аршанскім і Віцебскім паветах. Род захаваўся да сучаснасці, многія змізарнелыя яго прадстаўнікі не карысталіся княжацкім тытулам. Найб. вядомыя:

Багдан Андрэевіч (каля 1530—91), унук Івана Іванавіча. Часам пісаўся кн. Шчыдуцкім. Разам з братам Балтазарам удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у 1564—71 знаходзіўся ў маскоўскім палоне. Аршанскі суддзя земскі з 1579 і маршалак з 1591. Яго малодшы сын Фрыдэрык (каля 1565—1611) быў падкаморым аршанскім з 1600, адначасова старастам крычаўскім з 1602, кашталянам мсціслаўскім з 1610.

Канстанцін Міхайлавіч (каля 1540—81), унук Рамана. Уладальнік Дабрыгораў і Карэвічаў, ротмістр войска ВКЛ у час Інфлянцкай вайны, вызначыўся ў 1568 пры ўзяцці замка Ула, які атрымаў у намесніцтва, палкоўнік казацкі з 1579.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Лукшайтэ** (Lukšaitė) Інге (н. 2.2. 1940, г. Каўнас, Літва), літоўскі гісторык. Д-р габілітаваны (2000), дацэнт (1996). Скончыла Вільнюскі ун-т (1962). З 1964 у Ін-це гісторыі (з 2001 вядучы навук. супрацоўнік). Адначасова выкладала ў Вільнюскай акадэміі мастацтваў і Каўнаскім ун-це, з 2001 — у Клайпедскім ун-це, дзе з 2003 вядучы навук. супрацоўнік Ін-та археалогіі

і гісторыі ў рэгіёне Балтыкі. Працы па гісторыі культуры ВКЛ, параўнальным вывучэнні Рэфармацыі ў ВКЛ і Прускім герцагстве, гістарыяграфічных творах 16—17 ст. Адзін з аўтараў кніг «Нарыс гісторыі літоўскай культуры» (1981), «Нарыс гісторыі літоўскай школы і педагагічнай думкі» (1983), «Гісторыя Літвы: Ад старажытных часоў да 1917 года» (1988), «Развіццё літоўскай педагагічнай думкі ў творах дзеячаў культуры XVI—XVII вв.» (1991). Удзельнічала ў выданні твораў А.Волана (1996), М.Прэторыя (1999—2004). Прэмія Міністэрства культуры імя М.Мажвідаса (1999), Дзярж. прэмія ў галіне навукі 2002.

*Тв.*: Lietuvių kalba reformaciniame judėjime XVII a. Vilnius, 1970; Lietuvos publicistai valsteičių klaussimu XVI a. pabaigoje—XVII a. pirmojoje pusėje. Vilnius, 1976; Radikalioji reformacijos kryptis Lietuvoje. Vilnius, 1980; Biblioteka Salomona Rysińskiego // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa etc., 1985. T. 30; S.Risinskis — Lietuvos reformacijos veikėjas ir humanistinė kultūra // Lietuvos istorijos metraščiai, 1984 m. Vilnius, 1985; Die reformatorischen Kirchen Litauens bis 1795 // Die reformatorischen Kirchen Litauens: Ein historischen Abriß. Erlangen, 1998; Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje ir Mažojoje Lietuvoje, XVI a. trečias dešimtmetis—XVII a. pirmas dešimtmetis. Vilnius, 1999; Reformation und Gegenreformation in ihrer historischen Bedeutung für Litauen, Lettgalen und Kurland (XVI—XVII Jh.) // Die baltischen Staaten im Schnittpunkt der Entwicklung: Vergangenheit und Gegenwart. Basel, 2002; Reformacijos Lietuvoje raida ir evangelikų bažnyčių istorija XVI—XVIII a. // Lietuvos evangelikų bažnyčios: Istorijos metmenys. Vilnius, 2003.

**Лунінец** (цяпер горад, цэнтр Лунінецкага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Навагародскім павеце. Вядомы з 1449 пад назвай Малы Лулін, шляхецкая ўласнасць. У 1471 — сяло Лулінец маёнтка Ішкалдзь, належаў Неміровічам. У 1552 удава Я.П.Неміровіча Ганна (з Сапегаў) перадала сяло свайму прыёмнаму сыну полацкаму ваяводу С.Давойне. З 1561 вядома сучасная назва. У 1588 — 75 дымоў, царква. У 2-й пал. 16—1-й чвэрці 17 ст. належаў Друцкім-Любецкім, Граўжышскім, Кунцэвічам, Далматам і інш. У 1622 К.Б. Далмат падараваў Л. Дзятлавіцкаму манастыру. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Лускіна** Стафан (31.12.1725, Віцебскае ваяв.—21.8.1793), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, асветнік. У 1742 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў матэматыку, фізіку і астраномію ў Вене (1750—52), тэалогію ў Рыме (1752—56). З 1755 ксёндз. Прэфект «Калегіум нобіліум» у Вільні (1757—59), выкладаў матэматыку ў «Калегіум нобіліум» у Варшаве (1759—60), філасофію і матэматыку ў Варшаўскім калегіуме (1760—65). У 1765—66 капелан Станіслава Ляшчынскага ў Францыі. Пасля яго смерці вярнуўся ў Варшаву са зборам фізічных і астранамічных прыбораў. У 1761—71 пракуратар Мазавецкай правінцыі езуітаў, адначасова ўзначальваў матэматычна-фізічны кабінет у Варшаве. У 1772—73 рэктар Варшаўскага калегіума. Пасля скасавання ордэна езуітаў перадаў каралю свой фізічны кабінет, за што атрымаў прывілей на выданне газ. «Gazeta Warszawska» («Варшаўская газета»), якую рэдагаваў у 1773—93. Прапагандаваў ідэі Асветніцтва, школьную рэформу Адукацыйнай камісіі, аднак крытыкаваў погляды зах.-еўрапейскіх філосафаў і ідэі французскіх рэвалюцыянераў.

*Літ.*: Łojek J. *Gazeta Warszawska* księdza Łuskiny, 1774—1795. Warszawa, 1959.

**Лутніцкі** Лявон, прыдворны архітэктар і будаўнік князёў Радзівілаў у канцы 18 ст. Прадстаўнік архітэктуры барока. Удзельнічаў у рэканструкцыі палацава-паркавага комплексу ў *Альбе* пад Нясвіжам, дзе пабудаваў палац «Кансаляцыя», альтанку, сістэму каналаў. Зрабіў праект Каралеўскай залы для Нясвіжскага палаца (1783), рэстаўрыраваў палац у Слуцку (1786), касцёл св. Міхала і драўляную царкву ў Нясвіжы (1790).

***Гурый Барышаў.***

**Луцк** (укр. Луцьк, цяпер горад, цэнтр Валынскай вобл., Украіна), горад, цэнтр *Валынскага ваяводства*, на р. Стыр (прыток Прыпяці). Упершыню ўпамінаецца пад 1085. З 1199 у скла-




**Луцк**. Малюнак Н.Орды.



**Луцк**. Езуіцкі касцёл. Малюнак Н.Орды.





**Луцк**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

дзе *Галіцка-Валынскага княства*. У 1240 разбураны мангола-татарамі. У 1288 упершыню ўпамінаецца *Луцкая праваслаўная епархія*. У 12—15 ст. у Л. існавалі саборная царква Іаана Багаслова, цэрквы св. Паўла, Іаана Хрысціцеля, Прачысценскі і Васільеўскі манастыры. З 1320-х г. Л. належаў кн. Любарту, які ажаніўся з дачкой галіцка-валынскага кн. Андрэя Юр'евіча. У сярэдзіне 14 ст. Любарт пачаў узводзіць на месцы драўляных умацаванняў стараж. дзядзінца каменныя сцены *Луцкага замка*. У 1375 Любарт пагадзіўся на стварэнне першай у ВКЛ *Луцкай рымска-каталіцкай епархіі*, у якую ўваходзілі і паўд.-зах. землі Беларусі. Пасля смерці Любарта, відаць, у 1384, некаторы час у Л. гаспадарыў яго сын Фёдар. Але ў 1387 Ягайла перадаў Л. Вітаўту, які зрабіў горад другой сталіцай ВКЛ. У 1429 па прапанове імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Жыгімонта ў Л. збіраўся з'езд еўрапейскіх манархаў, на якім прысутнічалі вял. кн. Вітаўт, кароль Польшчы Ягайла, вял. князь маскоўскі Васіль II, кароль дацкі, вял. магістр Нямецкага ордэна, ваявода валашскі, папскі і візантыйскі паслы і інш.; абмяркоўваліся пытанні пра стварэнне саюзу супраць туркаў, пра аб'яднанне ўсх. і зах. цэркваў, аб наданні Вітаўту тытула караля. У 1390 Ягайла, а ў 1393 Вітаўт фундавалі будаўніцтва ў Л. дамініканскага кляштара і касцёла Дзевы Марыі. У 1425—27 Вітаўт пабудаваў Троіцікі касцёл. У 1431 горад безвынікова асаджала польскае войска на чале з Ягайлам. У час *феадальнай вайны 1432—39* Л. падтрымаў вял. кн. Свідрыгайлу, замак вытрымаў у 1436 аблогу войск ВКЛ. У 1440 вял. князь літоўскі Казімір IV Ягелончык аддаў Свідрыгайлу Валынскае княства, дзе той панаваў да сваёй смерці ў 1452. 31.10.1432 Ягайла дараваў Л. магдэбургскае права, але, відаць, яно распаўсюджвалася ў першую чаргу толькі на мяшчан замежнага паходжання. 28.7.1497 вял. кн. Аляксандр дараваў гораду новае магдэбургскае права, якое ахоплівала ўсё мяшчанства, горад і замак падзяліліся на 2 юрыдычна самастойныя адзінкі. Гар. магістрат складаўся з 2 калегій: лавы на чале з войтам (разглядала важныя судовыя справы) і рады на чале з бурмістрам (займалася дабрабытам горада і прыватнымі справамі гараджан). Калегіі засядалі ў ратушы, судовыя справы разглядаліся таксама ў войтаўскім доме. З 16 ст. Л. меў герб з выявай св. Якава, у правай руцэ якога кніга, а ў левай посах; пасля герб меў выяву св. Мікалая. У 1453, 1500, 1502 Л. захоплівалі і разбуралі татары. У 16 ст. існавалі цэрквы Дабравешчання, св. Міколы, Афанасія, Міхаіла і інш. З 1565 цэнтр Валынскага ваяв. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1578—89 дзейнічаў Луцкі трыбунал. З 1608 існаваў езуіцкі калегіум. У 1617 заснавана правасл. брацтва, пры якім дзейнічалі школа, друкарня, шпіталь. У 1616—39 паводле праекта італьянскага архітэктара Джакома Брыяна ўзведзены Петрапаўлаўскі касцёл (з канца 17 ст. кафедральны касцёл дыяцэзіі). У 1619—20 пабудавана Крыжаўзвіжанская царква. У 1624 луцкі староста А.Радзівіл падараваў брыгіткам, якіх у Л. запрасіла жонка валынскага харужага І.Сямашкі, свой палац. У 1648 Л. захоплены войскам Б.Хмяльніцкага. У 1706 горад разбураны шведамі. У 18 ст. існавалі кляштары бернардзінцаў (з 16 ст.), кармелітаў, трынітарыяў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Перлштейн А. Луцк и его древности // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1851. Кн. 9; Stecki T.J. Łuck starożytny i dzisiejszy: Monografia historyczna. Kraków, 1876; Орда Л.М. Краткий исторический очерк города Луцка и памятники старины, в нем сохранившиеся. Луцк, 1897; Мердер А.И. Древности Луцка и его прошлое. Киев, 1910; Wojnicz A. Łuck na Wołyniu: Opis historyczno-fizjograficzny. Łuck, 1922; Дублянський А. Луцьк: Історичний нарис. Луцьк, 1934; Маслов Л. Архітектура старого Луцьку. Львів, 1939; Луцьку 900 років: Зб. документів і матеріалів. Київ, 1985; Троневіч П.О., Хілько М.В., Сайчук Б.Т. Встрачені хрістіянські храми Луцька. Луцьк, 2001.

*Валерый Грынявецкі.*

**Луцкая праваслаўная епархія**, Луцка-Астрожская праваслаўная епархія, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы ў канцы 13—пач. 18 ст. Створана, відаць, уладзіміра-валынскім кн. Васількам Раманавічам, упершыню ўпамінаецца ў 1288. Уваходзіла ў склад *Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі* (з перапынкам у 1-й пал. 14 ст., калі ўваходзіла ў *Галіцкую праваслаўную мітраполію*). Ахоплівала большую частку Валынскай зямлі, пасля — Валынскага ваяв. Кафедры епіскапаў знаходзіліся ў Луцкай царкве Іаана Багаслова і *Астрожскай Богаяўленскай царкве*. На тэр. епархіі знаходзіліся манастыры Перасопніцкі Раства Багародзіцы, Жыдзічынскі Мікольскі, Дзерманьскі Троіцкі, Сцепаньскі Міхайлаўскі, Пачаеўскі Успенскі, а таксама манастыры ў Луцку, Астрозе, Дубне і інш. У Астрогу дзейнічалі *Астрожская школа, Астрожская друкарня*. Епархія лічылася адной з самых багатых у мітраполіі. Першыя вядомыя зямельныя падараванні кафедральнай царкве зрабіў кн. *Любарт* (мяст. Рожышча). Да сярэдзіны 16 ст. значную частку маёнткаў епархія страціла з-за дзейнасці сваіх епіскапаў, вярнуць іх удалося епіскапу К.*Цярлецкаму*, аднаму з ініцыятараў царк. уніі. З утварэннем грэка-каталіцкай царквы (1596) епархія стала уніяцкай, з 1632 зноў праваслаўная. У канцы 16—пач. 17 ст. ёй належалі 4 мястэчкі і больш за 30 сёл. У 1721 скасавана.

*Віктар Атаманенка.*

**Луцкая рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Паводле некаторых звестак, спробы заснаваць епархію з цэнтрам у г. Уладзімір зроблены ў 1350—60-я г. польскім каралём Казімірам III у час захопу ім Валыні. Аднак пасля ўваходжання Валыні ў ВКЛ епархія была скасавана. У 1375 у час праўлення на Валыні кн. *Любарта* папа Грыгорый

XI зноў усталяваў ва Уладзіміры кафедру, хоць напачатку яна існавала намінальна. З 15 ст. на тэр. епархіі пачалі будаваць касцёлы. У 1425 рымскі папа Марцін V са згоды вял. кн. Вітаўта зацвердзіў біскупам Енджэя (Андрэя) Сплаўскага. У 1428 кафедра перанесена з Уладзіміра ў Луцк. У 1428 Вітаўт даў епархіі значныя зямельныя ўладанні ў раёне Луцка, Берасця, Дарагічына, што пацверджана ў 1437 вял. кн. Жыгімонтам Кейстутавічам. У розныя часы тэр. епархіі ўключала Валынскае, Берасцейскае, Брацлаўскае, Падляшскае ваяв. і некаторыя інш. землі. З 17 ст. біскуп называўся луцкім і берасцейскім. У пач. 18 ст. ў складзе епархіі створаны Берасцейскі архідыяканат, на аснове якога ў 1726 створана *Берасцейская рымска-каталіцкая епархія*. У 1795 епархія скасавана.

Біскупы луцкія: Пётр (1358), Гінка (1371), Ісідар (1375—80), Ругіян (памёр у 1400), Грыгорый з Бучнава (памёр каля 1425), Андрэй I Сплаўскі (1425—?), Вацлаў (1452—62), Ян Ласовіч (1462/63—68), Марцін I Кшашоўскі (1468), Станіслаў I Стаўскі (?—1488), Ян II Андрушэвіч (1499), Альбрэхт Радзівіл (1505—07), Павел I Альгімунт Гальшанскі (1530—35), Ежы I Хвальчэўскі (?—1547), Валяр'ян I Пратасевіч (?—1555), Ян III Андрушэвіч (?—?), Віктарын I Вяжбоўскі (1567—88), Бярнард I Мацяёўскі (1588—1600), Станіслаў II Гамулінскі (1600—04), Марцін II Шышкоўскі (1604—07), Павел II Валовіч (1608), Павел III Валуцкі (1608—16), Генрык I Фірлей (1617), Андрэй II Ліпскі (1617—22), Станіслаў III Любанскі (1623—27), Ахацый Грахоўскі (1627—33), Багуслаў I Радашэўскі (1633—38), Андрэй III Гембіцкі (1638—55), Ян IV Замойскі (1655), Ян V Выджга (1655—59), Мікалай I Пражмоўскі (1664—66), Тамаш Ляжэнскі (1669—75), Станіслаў IV з Любранца Домбскі (1675—80), Станіслаў V Вітвіцкі (1680—88), Багуслаў II Ляшчынскі (1688—91), Францішак I Пражмоўскі (1697—1701), Аляксандр I Выхоўскі (1703—14), Іахім Прандабоўскі (1714—21), Стафан I Багуслаў Рупнеўскі (1722—31), Ян VI Ліпскі (1731), Андрэй III Станіслаў Костка Залускі (1732—39), Францішак II Антоній Кабельскі (1739—55), Антоній I Эразм Валовіч (1755—69), Фелікс I Павел Турскі (1769—90), Адам I Станіслаў Нарушэвіч (1790—95).

*Літ.*: Królik L. Organizacja diecezji łuckiej i brzeskiej od XVI do XVIII wieku. Lublin, 1983.

***Юрый Бажэнаў.***

**Луцкевіч** Антон Іванавіч [17(29).1.1884, г. Шаўлі Ковенскай губ.—23.3.1942], палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, педагог, крытык, гісторык. Вучыўся ў Пецярбургскім і Юр'еўскім ун-тах. Адзін з заснавальнікаў Бел. сацыялістычнай грамады, газ. «Наша ніва» і інш. бел. выданняў. З 1921 узначальваў Бел. навук. т-ва ў Вільні, пры якім на аснове калекцый свайго брата Івана, кніг і архіўных матэрыялаў Е.Р.Раманава, а таксама б-кі «Знание» з дапамогаю інжынера Л.Я.Дубейкаўскага стварыў Бел. музей імя І.Луцкевіча ў Вільні, дзе зберагалася шмат экспанатаў часоў ВКЛ. Шмат увагі аддаваў вывучэнню гісторыі і папулярызацыі спадчыны ВКЛ. Пры яго актыўным удзеле выйшлі «Гадавік Беларускага навуковага таварыства» (Вільня, 1933) і «Запісы Беларускага навуковага таварыства» (Вільня, 1938), у якіх надрукаваны працы па гісторыі ВКЛ. Быў у ліку арганізатараў святкавання 400-й гадавіны Статута ВКЛ 1529.

*Тв.*: У 400-я ўгодкі беларускага друку ў Вільні // Беларуская доля. 1925. 25 сак.; Скарбы Беларускага Музею ім. Івана Луцкевіча // Беларускі каляндар на 1929 г. Вільня, 1928; Чатырохсотлецьце першага кодэксу беларускага права (1529—1929) // Там жа; Статут В. Кн. Літоўскага на фоне эвалюцыі сацыяльных адносінаў у Беларусі // Школа і жыцьцё. Рыга, 1930. № 1; Пятнаццаць гадоў працы Беларускага Навуковага Таварыства // Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства. Вільня, 1933; Да гісторыі беларускага дрэварытніцтва // Там жа; Беларускі Музей ім. Івана Луцкевіча // Там жа (рэпрынт асобнага адбітка: Мн., 1992); Muzeum Białoruskie im. Jana Łuckiewicza w Wilnie // Baltoslavica. Wilno, 1933. T. 1; Muzeum Białoruskie im. Jana Łuckiewicza // Sygnały. 1939. 15 sierpnia.

***Анатоль Сідарэвіч.***



**Луцкі замак**.

**Луцкі замак**, абарончы і рэзідэнцыяльны комплекс 11—18 ст. у *Луцку*. Першы этап узвядзення вала адносіцца да мяжы 10—11 ст. У 12 ст. на дзядзінцы збудаваны магутныя драўляныя ўмацаванні і дрэва-земляныя валы з ровам. У 1259 умацаванні разабраны паводле патрабавання мангольскага баскака Бурундая. Адносна часу ўзвя-

**Луцкі замак**.





дзення мураванага замка вядуцца дыскусіі. Выказваецца версія, што гэта адбылося ў сярэдзіне ці канцы 13 ст. (М.Гаўдэнка, М.Кучынка, М.Малеўская). Крыніцы 16 ст. называюць стваральнікамі мураванага замка князёў *Любарта* і *Свідрыгайлу*. Сучасныя даследаванні паказваюць, што замак будаваўся паступова, шляхам замены драўляных умацаванняў цаглянымі. Комплекс мураванага замка на месцы старажытнага дзядзінца ўзводзіўся пры Любарце, рэзідэнцыя якога знаходзілася ў замку. Праўдападобна, паміж 1352 і 1366 падчас 1-га будаўнічага перыяду (паводле П.Траневіча) пабудавана Уязная вежа з прылеглым да яе палацам і праслам муру па-за лініяй драўлянай сцяны. Паміж 1370 і 1385 (2-і будаўнічы перыяд) Уязная вежа падвышана на 1 ярус і закладзена Стыравая вежа. 3-і будаўнічы перыяд (канец 14—пач. 15 ст.) прыпаў на панаванне *Вітаўта*, які зрабіў Л.з. сваёй паўд. рэзідэнцыяй — пабудавана Уладычая вежа, замак стаў цалкам мураваны. У 1429 у Л.з. збіраўся з'езд еўрапейскіх манархаў, сабраны з нагоды абмеркавання пытання каралеўскай каранацыі Вітаўта. Пасля Л.з. быў рэзідэнцыяй Свідрыгайлы, якую бралі ў аблогу і штурмавалі ў 1431 і 1433 войскі Ягайлы, у 1436 — Жыгімонта Кейстутавіча. Пад кіраўніцтвам каменданта Юршы ў 1430-х г. праводзілася рэканструкцыя замка з мэтаю прыстасаваць яго для выкарыстання гармат. Каля 1494 луцкі староста Сямён Гальшанскі і яго намеснік Багдан Валошын праводзілі чарговыя працы па ўмацаванні замка. Люстрацыі 1545 і 1552 даюць уяўленне пра выгляд Луцка таго часу — з цалкам мураваным Вышнім (Верхнім) замкам з 3 вежамі і напаўмураваным Вакольным замкам з 4 мураванымі і 4 драўлянымі вежамі. Вышні замак меў нерэгулярны план, дастасаваны да канфігурацыі пагорка, на якім размешчаны. Подступы за замка прыкрывае р. Стыр, у якую ўліваецца р. Малы Глушэц, а таксама роў. Дадатковую лінію абароны з боку Малога Глушца ствараў драўляны паркан. З паўд. і зах. бакоў подступы да замка прыкрывалі ўмацаванні вакольнага горада. Асновай абароны замка з'яўляліся вежы: Брамная (Уязная) (11,5 x 11,5 м, вышыня 22 м), Стыравая (9 x 9 м, вышыня 20 м), Уладычая (7,5 x 7,5 м, вышыня 16 м). Першапачатковa вежы былі 3-яруснымі. У 16—пач. 17 ст. вежы падвышаны і над імі ўзведзены высокія рэнесансныя атыкі. Княжацкі палац ля паўд. мура не захаваўся, таксама як і царква Іаана Багаслова (пабудавана ў 12 ст.), што знаходзілася ў цэнтры дзядзінца. На месцы палаца ў 1789 узведзены новы будынак (т.зв. Шляхецкі дом). У пач. 19 ст. ў паўн. частцы замка пабудаваны класіцыстычны Палац біскупа. Частковыя кансервацыйныя працы ў Л.з. праведзены ў 1930-г. У 1970—77 рэстаўрыраваны.

*Літ.*: Антонович В. Б. Литовские замки на Волыни // Труды XI археологического съезда в Киеве. М., 1901; Лукомский Г. Луцкий замок. Пг., 1917; Małuszyński M. Z dziejów zamku Łuckiego. Łuck, 1938; Логвин Г.Н. Луцкий замок // Культура и искусство Древней Руси. Л., 1967; Колосок Б.В. Луцькі Верхній та Окольний замки // Дослідження з слов'яно-руської археології. Київ, 1976; Малевская М.В. Дворец в Верхнем замке Луцка XIV в. // Средневековая архитектура и монументальное искусство. СПб., 1999; Троневич П. Луцький замок. Луцьк, 2003.

*Алег Дзярновіч.*

**Лучыцкая воласць**, Алучыцкая воласць, Лучыцы, Алучыцы, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—17 ст. Размяшчалася на тэр. сучасных Касцюковіцкага, Хоцімскага, усх. часткі Краснапольскага і паўд. часткі Клімавіцкага р-наў Магілёўскай вобл. Упершыню ў якасці самастойнай адм.-тэр. і гасп. адзінкі згадваецца ў прыходна-расходнай кнізе пісара гаспадарскага Храптовіча пад 1496: «Олучичане дани дали полстадесят коп грошей, а куниц 20 шерстью». Там жа ёсць дапаўненне, што Алучыцы разам з Прапойскам і Дрокавам выстаўлялі 100 чал. з сякерамі на рамонт памежных замкаў. Раней, відаць, Л.в. уваходзіла ў склад *Мсціслаўскага княства*. У 1529, калі знаходзілася ў трыманні ў Нічыпара Бабаедава, была далучана да *Крычаўскай воласці* як асобная адм.-гасп. адзінка. Адм. цэнтр і паходжанне назвы Л.в. дакладна невядомыя. Вёска Лучычы, якая згадваецца на тэр. воласці ў пач. 16 ст. і якая магла даць назву воласці, не захавалася. У 1-й трэці 16 ст. землі Л.в. былі аб'ектам пастаянных спрэчак паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам. На тэр. воласці адначасова дзейнічала як адміністрацыя ВКЛ, так і спрабавала арганізаваць сваю дзейнасць маскоўская адміністрацыя. У той жа час крыніцы 1-й пал. 16 ст. захавалі шматлікія скаргі рус. ваявод пра напады жыхароў Л.в. на рус. землі. У 1533 паводле загаду вял. кн. Жыгімонта Старога крычаўскі дзяржаўца Васіль Чыж пачаў прыводзіць да прысягі жыхароў воласці і арыштаваў уступіўшую туды маскоўскую адміністрацыю. У 1537 Л.в. канчаткова замацавана за ВКЛ. З канца 17 ст. — войтаўства Крычаўскага староства. У 18 ст. цэнтрам войтаўства было мяст. Міхалаў, заснаванае насупраць в. Забычанне і з якога раней пачыналіся інвентарныя апісанні воласці. У 1-й пал. 18 ст. на тэрыторыі войтаўства заснавана мяст. Студзянец. У пач. 18 ст. на ўсх. частцы Лучыцкай вол. арганізавана Бярозкаўскае войтаўства Крычаўскага староства (тэр. сучаснага Хоцімскага і ўсх. частка Касцюковіцкага р-наў). У сярэдзіне 18 ст. ў войтаўстве 2 мястэчкі, 39 вёсак і 8 слабод.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Лучыцкая воласць XV—XVIII стагоддзяў // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2000. № 4; Яго ж. Воласць Крычава ў XII—XVI стст.: тэрыторыя, адміністрацыйна-гаспадарчы падзел, паселішчы // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 2000. № 15; Яго ж. Фарміраванне і тэрытарыяльнае развіццё Мсціслаўскага княства сярэдзіны XII — пачатку XVI ст. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2001.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Лышчынскі** Казімір (4.3.1634, маёнтак Лышчыцы, Берасцейскі пав.— 30.3.1689), беларускі мысліцель, грамадска-палітычны дзеяч і педагог. Вучыўся ў езуіцкіх установах Берасця, Кракава, Каліша і Львова. З 1658 чл. ордэна езуітаў. Выкладчык, памочнік рэктара Берасцейскага езуіцкага калегіума. Пасля разрыву з езуітамі (1666) падсудак берасцейскага земскага суда. У 1687 езуіцкі агент Я.Бжоска выкраў у Л. яго рукапісны трактат «Аб неіснаванні Бога», на падставе якога Л. быў зняволены і прызнаны атэістам. Паводле прыгавору соймавага суда ён абезгалоўлены і спалены на кастры ў Варшаве. Трактат Л. — арыгінальны філасофскі твор, у якім аўтар выступіў супраць рэлігійнага светаразумення і хрысціянскай рэлігіі, адкінуў біблейскую касмагонію, сцвярджаў, што прырода развіваецца па ўласных законах без умяшання звышнатуральнай істоты,



а свет існуе вечна. Л. лічыў, што ўяўленні людзей пра Бога — вынік іх фантазіі і памылак, Стары і Новы Запаветы — выдумка ашуканцаў Майсея і Хрыста, адмаўляў бессмяротнасць душы, Тройцы, замагільны свет, уваскрэсенне з мёртвых, крытыкаваў царк. мараль, лад жыцця каталіцкага духавенства, настойваў на замене царк. шлюбу грамадзянскім, адзін з першых прапагандыстаў ідэй утапічнага сацыялізму ў Беларусі. Марыў аб сац. роўнасці і свабодзе, жадаў бачыць «свет без улады, гарады без начальнікаў, народ без гаспадароў». У 1957 польскі гісторык А.Навіцкі адшукаў некалькі фрагментаў з трактата, якія зберагаюцца ў г. Курнік (Польшча).

*Літ.*: Дружчыц В. Казімір Лышчынскі — беларускі бязбожнік XVII в. // Полымя. 1927. № 2; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI—нач. XIX в. Мн., 1962. С. 270—304; Шалькевіч В. Касцёр бессмяротнасці // Полымя. 1977. № 3; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Идеи материализма и диалектики в Белоруссии: (дооктябрьский период). Мн., 1980; Прокошина Е.С., Шалькевич В.Ф. Казимир Лыщинский. Мн., 1986; Nowicki A. Kazimierz Łyszczyński, 1634—1689. Łódź, 1989.

***Вячаслаў Шалькевіч.***

**Львоўская рымска-каталіцкая мітраполія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Створана ў 1412 у выніку перанясення кафедры мітрапалітаў *Галіцкай рымска-каталіцкай мітраполіі* з Галіча ў Львоў. Ахоплівала Галіцкую, Перамышльскую, Уладзімірскую, Холмскую, Камянецкую, Львоўскую і Кіеўскую епархіі.

*Літ.*: Krętosz J. Organizacja archidiecezji lwowskiej obrządku łacińskiego od XV wieku do 1772 roku. Lublin, 1986.

***Валерый Пазднякоў.***

**Любамірскага рокаш 1665—66**, узброенае выступленне шляхты Рэчы Паспалітай супраць палітыкі караля Яна II Казіміра, узначаленае былым вялікім каронным маршалкам і гетманам польным Ежы Себасцьянам Любамірскім. Ракашане выступалі супраць планаў караля ўзмацніць (з апорай на Францыю) цэнтральную ўладу, увесці прынцып абрання новага караля пры жыцці папярэдніка. У 1665—66 прыхільнікі Любамірскага сарвалі 4 соймы, паралізаваўшы намаганні каралеўскай партыі ажыццявіць рэформы дзярж. ладу. Войска Любамірскага пачало ваенныя дзеянні супраць каралеўскага войска. У ВКЛ магнаты і шляхта выразна не акрэслілі сваю пазіцыю ў адносінах да рокашу, ваенныя падзеі якога адбываліся ў Польшчы. У падтрымку Любамірскага выказваўся вял. гетман ВКЛ П.Я.Сапега. Яго быў схільны падтрымаць кіраўнік пратэстанцкай партыі ў ВКЛ Б.Радзівіл. На бок Яна II Казіміра стаў пісар польны ВКЛ А.Г.Палубінскі, які прывёў у каралеўскае войска корпус кавалерыі ВКЛ і камандаваў ім (пры дапамозе некаторых прадстаўнікоў роду Пацаў) у бітве пад Чанстаховай 4.9.1665. У выніку паражэння разам з інш. літвінамі трапіў у палон да ракашанаў і даў прысягу, што больш не выступіць супраць «каронных братоў». З'ехаў у ВКЛ, а камандаванне над корпусам прыняў польны гетман ВКЛ М.К.Пац (рада сенатараў ВКЛ даручыла яму з 8-тысячным войскам рушыць у Польшчу).13.7.1666 ракашане атрымалі перамогу ў бітве пад Монтамі ў Інаўроцлаўскім ваяв. (М.К.Пац удзелу ў ёй не прыняў). Рокаш скончыўся заключэннем 31.7.1666 пагаднення ў Лянгоніцах. Любамірскі скарыўся перад каралём, які, аднак, быў вымушаны адмовіцца ад сваіх рэфарматарскіх планаў. Вынікам рокашу стала далейшае аслабленне манархіі ў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Rachuba A. Zabiegi dworu i Jerzego Lubomirskiego o pozyskanie Litwy w 1664 roku // Przegląd historyczny. 1987. Z. 1; Яго ж. Radziwiłłowie wobec rokoszu Lubomirskiego // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa; Łódz, 1989. T. 3; Nagielski M. Rokosz Jerzego Lubomirskiego w 1665 roku. Warszawa, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**Любанскі бой 1794.** Адбыўся 4 вер. паміж 2-тысячным паўстанцкім атрадам С.*Грабоўскага* і рас. войскамі на чале з генерал-маёрам П.Дз.Цыцыянавым каля мяст. *Любань* Слуцкага пав. ў час *паўстання 1794*. Атрад, накіраваны *Цэнтральнай дэпутацыяй Вялікага княства Літоўскага* ў рэйд па Мінскай губ. з мэтай узняць там паўстанне, быў праследаваны атрадам Цыцыянава. Імкнучыся пазбавіцца пагоні, Грабоўскі пачаў пераправу на правы бок р. Арэса каля Любані. Адначасова пераправіўся атрад Цыцыянава і ў выніку бою прыціснуў войскі Грабоўскага да р. Арэса. Не маючы сіл працягваць бой, Грабоўскі быў вымушаны капітуляваць. Пасля капітулявала конніца паўстанцаў, якая засталася на левым беразе Арэсы. Загінула каля 500 паўстанцаў, больш за 1000 трапіла ў палон. Рас. войскі захапілі 5 гармат.

*Літ.*: Восстание и война 1794 года в Литовской провинции: (По документам архивов Москвы и Минска) / Сост. Е.К.Анищенко. Мн., 2001. С. 156—158.

***Валерый Пазднякоў.***

**Любань** (цяпер горад, цэнтр Любанскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Слуцкім княстве, на р. Арэса. Вядома з 16 ст. як уласнасць князёў Алелькавічаў. З 1589 уласнасць слуцкіх купцоў Тышэвічаў, з 1617 — князёў Радзівілаў. У 1560-я г. ў Л. каля 230 ж., 35 двароў, у сярэдзіне 17 ст. — 161 двор. З 1791 у Случарэцкім пав. Навагародскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У час паўстання 1794 пад Л. адбыўся *Любанскі бой 1794*.

**Любарт** (у праваслаўі Дзмітрый; 1320?—1383), валынскі (уладзімірскі і луцкі) князь. Адзін з малодшых сыноў вял. кн. *Гедзіміна*, відаць, ад яго апошняй жонкі Еўны. У 1330-я г. ўдзельнічаў у паходах войска ВКЛ на Мазовію. Першым шлюбам, відаць, жанаты з дачкой уладзіміра-валынскага кн. Андрэя Юр'евіча (Ганнай?), што дало Л. права прэтэндаваць на валынскія і галіцкія землі. Пасля смерці апошняга гаспадара Галіцка-Валынскага княства Юрыя Баляслава II Трайдзенавіча (1340) з дапамогай бацькі Л. заняў Валынь. Прэтэндаваў на Галіччыну. У 1340—49 галіцкае баярства на чале з Дзмітрыем Дзядзькам намінальна прызнавала гаспадарамі то Л., то польскаŁга караля Казіміра III, то венгерскага Людвіка I, што выклікала канфрантацыю паміж імі. Л. падтрымліваў прыязныя адносіны з кіеўскім мітрапалітам Феагностам, у 1347 падтрымаў яго ініцыятыву па скасаванні Галіцкай мітраполіі, каб яна не паслужыла інструментам пашырэння ўплыву Польшчы і Венгрыі на паўд.-зах. землі ВКЛ. У 1349—51 Казімір і Людвік вялі войны з Л. за Галіччыну і Валынь. У жн. 1351 Л. разам з Кейстутам захоплены ў палон венграмі, 15.8.1351 падпісаў дагавор з Людвікам, паводле якога ВКЛ мусіла запла-

ціць вял. выкуп, адмаўлялася ад прэтэнзій на Галіччыну, але захоўвала большую частку Валыні. У 1352 заключыў сепаратны дагавор з Казімірам і мазавецкімі князямі, але ў 1353 далучыўся да паходаў Кейстута на Польшчу. Пасля працяглага перыяду мірных адносін з Казімірам (1356—66) у выніку ваеннага паходу апошняга адмовіўся ад прэтэнзій на Белзскую і Холмскую землі, саступіў Польшчы Зах. Валынь з г. Уладзімір, якую вярнуў пасля смерці Казіміра ў 1370. У 1376 удзельнічаў у шырокамаштабнай літ. выправе на Польшчу, што выклікала няўдалую для яго вайну з Людвікам у 1377, у выніку якой Л. вымушаны прызнаць сябе васалам Венгрыі і пакінуць Людвіку сваіх сыноў у якасці заложнікаў. Пасля смерці Людвіка ў 1382 выкупіў у венгерскіх старастаў некаторыя памежныя галіцкія крэпасці (Лапацін, Алеска і інш.). Пры Л. значэнне аднаго з гал. паліт. цэнтраў ВКЛ набыў г. Луцк. У 1375 Л. згадзіўся на стварэнне першага ў ВКЛ каталіцкага біскупства — *Луцкай рымска-каталіцкай епархіі*, юрысдыкцыя якой ахоплівала і паўд.-зах. землі Беларусі. Сыны Л. (гл. *Любартавічы*) нашчадкаў не мелі.

*Літ.*: Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Владимирское наследие. СПб., 1890; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Довнар-Запольский М.В. Из истории литовско-польской борьбы за Волынь // Университетские известия. Киев, 1896. № 8; Paszkiewicz H. Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925; Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993.

***Алесь Белы.***

**Любартавічы**, князі ў ВКЛ, сыны *Любарта*. Ад 1-га шлюбу з дачкой уладзіміра-валынскага кн. Андрэя Юр'евіча (Ганнай?) Любарт меў сына Івана, ад 2-га, з дачкой растоўскага кн. Канстанціна Васілевіча (Вольгай) — Фёдара, Лазара і Сямёна. Усе Л., відаць, памерлі бяздзетнымі. У канцы 16 ст. памылкова пачалі ўзводзіць свой род да Фёдара Л. і звацца Л. князі *Сангушкі*, якія на самой справе паходзілі ад ратненскага кн. Фёдара Альгердавіча. Найб. вядомыя:

Іван (?—?), сын Любарта ад 1-га шлюбу. У 2-й пал. 14 ст. быў адным з чарнігаўскіх удзельных князёў (магчыма, ноўгарад-северскім).

Фёдар (Фядзюшка; каля 1351—жн. 1431), сын Любрта ад 2-га шлюбу. Пасля смерці бацькі князь луцкі і ўладзімірскі. У 1386 заложнік у Кракаве як гарант выканання Ягайлам умоў *Крэўскай уніі 1385*. У 1387 пазбаўлены Луцка на карысць Вітаўта. У 1393 Вітаўт адабраў у яго і Уладзімір, надаўшы ўзамен Северскае княства (ва ўладанне якім Фёдар, відаць, не ўступіў). Пазней быў саюзнікам кн. Свідрыгайлы, у 1397—98 у выгнанні ў Венгрыі. Памірыўся з Ягайлам, пасля смерці ратненскага кн. Фёдара Альгердавіча атрымаў Жыдачоў з акругай, пазней Стрый. У *Грунвальдскай бітве 1410* знаходзіўся поруч з Ягайлам. Каб выкарыстаць яго як процівагу Свідрыгайлу, у ліп. 1431 Ягайла вярнуў яму Уладзімір.

*Літ.*: Зотов Р.В. О черниговских князьях по Любецкому синодику и о Черниговском княжестве в татарское время. СПб., 1892; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-sewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936.

***Алесь Белы.***

**Любаўскі** (Любавский) Мацей Кузьміч [1(13).8.1860, с. Вял. Мажары Сапажкоўскага пав. Разанскай губ. (цяпер Сараеўскі р-н Разанскай вобл., Расія)—22.11.1936], расійскі гісторык. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1917), акад. АН СССР (1929). Скончыў Разанскую духоўную семінарыю, Маскоўскі ун-т (1882). Вучань Н.А.Папова і В.В.Ключэўскага. Магістэрскую дысертацыю «Абласны падзел і мясцовае кіраванне Літоўска-Рускай дзяржавы да часу выдання першага Літоўскага статута» абараніў у 1894, доктарскую дысертацыю «Літоўска-рускі сейм» — у 1901. З 1894 прыват-дацэнт, з 1901 прафесар, у 1911—17 рэктар Маскоўскага ун-та, у 1913—29 старшыня Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх. Пасля года зняволення ў турме па т.зв. «Платонаўскай справе» (сфабрыкавана супраць акадэміка С.Ф.Платонава і інш. гісторыкаў) у 1930 сасланы ў Уфу, дзе працаваў навук. супрацоўнікам Башкірскага НДІ нац. культуры (1931—35). Аўтар больш як 100 навук. прац. Адзін з асн. навук. кірункаў у яго дзейнасці — даследаванне сац.-паліт. гісторыі ВКЛ. Манаграфія Л. «Нарыс гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы да Люблінскай уніі ўключна» прысвечана вывучэнню сац.-паліт. гісторыі ВКЛ 14—16 ст. у параўнанні з Рус. дзяржавай. Многія высновы і назіранні ў працах, прысвечаных ВКЛ, увайшлі ў асн. фонд рас. літуаністыкі і не страцілі сваёй навук. каштоўнасці. Л. вывучаў гіст. геаграфію, чытаў курс лекцый па гісторыі рассялення ў Расіі з даўнейшых часоў да 20 ст. і напісаў цыкл навук. даследаванняў па гэтай тэме. У Маскоўскім ун-це чытаў першы курс лекцый па гісторыі зах. славян. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 стаў арганізатарам архіўнай справы і вышэйшай архіўнай адукацыі. Стварыў уласную навук. школу гісторыкаў, яго вучнямі былі У.І.*Пічэта*, С.У.Бахрушын, М.Г.*Беражкоў*, А.А.Навасельскі і інш.

*Тв.*: Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. [М., 1892]; Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900; Историческая география России в связи с колонизацией. М., 1909 (2 изд. СПб., 2000); Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910 (3 изд. СПб., 2004); Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918; Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI сталецьця // 400-лецьце беларускага друку. Мн., 1926; Обзор истории русской колонизации с древнейших времен и до XX века. М., 1996; История царствования Екатерины II. 2 изд. СПб., 2001; Лекции по древней русской истории до конца XVI века. 5 изд. СПб., 2002; Русская история XVII—XVIII веков. 2 изд. СПб., 2002; История западных славян. М., 2004.

*Літ.*: Сборник статей в честь М.К.Любавского. Пг., 1917 (змешчана бібліяграфія прац Л.); Карев Д.В. Неопубликованное творческое наследие М.К.Любавского // Археографический ежегодник за 1974 г. М., 1975; Яго ж. Участие академика М.К.Любавского в советском архивном строительстве // Сов. архивы. 1078. № 2; Яго ж. Неопубликованные историко-географические труды М.К.Любавского // Археографический ежегодник за 1987 г. М., 1988; Яго ж. Академик М.К.Любавский: Судьба и наследие // Наш радавод. Гродна, 1994. Кн. 6, ч. 3; Падокшын С.А. Канцэпцыя гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў даследаваннях Мацея Любаўскага (XIII—першая палова XVI ст.) // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1996. № 4; Иванов Ю.Ф. М.К.Любавский — выдающийся учёный и педагог // Вопросы истории. 2001. № 10.

***Дзмітрый Караў.***

**Любашанская воласць**, Л ю б а ш а н с к а е с т а р а с т в а, дзяржаўнае ўладанне ў ВКЛ у 15—18 ст. Вылучылася, відаць, са *Свіслацкага княства*, уключанага ў ВКЛ у сярэдзіне 14 ст. Да пач. 16 ст. мела двайное падпарадкаванне Віленскаму і Троцкаму ваяводствам, пазней кіравалася намеснікам (дзяржаўцам) на ўмовах закладу, калі намеснік за пазычаную дзярж. скарбу суму мог карыстацца даходамі з Л.в. На пасадах любашанскіх намеснікаў упамінаюцца кн. В.А.Палубінскі (1515—16), Я.Я.Завіша, кн. В.Саламярэцкі (абодва 1519), Ю.Няміравіч (1520—32), кн. С.Б.Адзінцэвіч, А.Гарнастай (1546—58). Паводле адм. рэформы




ВКЛ 1565—66 большая частка воласці (на левым беразе р. Бярэзіна) увайшла ў Аршанскі пав., невял. частка (на правым беразе) з мяст. Беразіно, сёламі Палажаны і Жорнаўка — у Менскі павет. У 16—17 ст. з тэр. Л.в. вылучыліся дробныя дзярж. (Карытніца, Прыборкі) і духоўныя (Біскупка, Капланцы) маёнткі. Асн. частка Л.в. на закладным праве належала В.Ясінскаму (1560—70), М.Ясінскаму (1570—81), кн. Ш.Галоўчынскаму (1581—1610), Я.К.Хадкевічу (1611—21), Я.С.Сапегу (1621—25), К.Л.Сапегу (1625—56), А.К.Нарушэвічу (1656—61). Праз шлюб Кацярыны Нарушэвіч з Я.К.Валовічам закладное права на Л.в. перайшло да апошняга. У пач. 18 ст. Л.в. належала М.Даўмонту-Сясіцкаму, Б.Сапегу і яго сыну М.Сапегу, з 1710 — А.Навасельскаму, пазней С.Дэнгафу, у апошняй чвэрці 18 ст. — Л.Тышкевічу. У 1775 у склад воласці ўваходзіла і 3 мястэчкі і 30 вёсак, 577 дымоў; у 1790 — 651 дым. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, захавала статус т.зв. старасцінскага дзярж. маёнтка ў Ігуменскім пав. Мінскай губ.

***Вячаслаў Насевіч.***



Герб **«Любіч»**.

**Любецкія**, гл. *Друцкія-Любецкія*.

**«Любіч»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 500 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Жулкеўскія, Лапацінскія, Незабытоўскія, Радзімінскія. У блакітным полі сярэбраная падкова рагамі ўніз, на ёй стаіць залаты кавалерскі крыж, другі крыж у сярэдзіне падковы; клейнод — над прылбіцай з каронай 3 страусавыя пёры. Існуюць варыянты герба з адным сярэбраным крыжом у сярэдзіне падковы, з 2 сярэбранымі крыжамі адзін пад адным у сярэдзіне падковы. Вядомы з сярэдзіны 14 ст.

***Валерый Пазднякоў.***

**Люблінская унія 1569**, дзяржаўны саюз паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам, у выніку заключэння каторага была ўтворана федэратыўная дзяржава — *Рэч Паспалітая*. Зацверджаны ў Любліне 1.7.1569. Перадумовамі Л.у. былі доўгае існаванне персанальнай уніі ВКЛ і Польшчы, пачынаючы з *Крэўскай уніі 1385*, паступовае збліжэнне паліт. і дзярж. інстытутаў абедзвюх дзяржаў, у асн. адзіная палітыка ў міжнародных адносінах, адзіная адміністрацыя каталіцкай царквы. Непасрэднай прычынай заключэння Л.у. былі няўдачы войска ВКЛ у час 1-га перыяду *Інфлянцкай вайны 1558—82*, страта ў 1563 Полацка. Польская шляхта і магнаты намагаліся ўключыць ВКЛ у склад сваёй дзяржавы. Кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст, апошні з мужчынскай лініі дынастыі Ягелонаў, хацеў замацаваць саюз Польшчы і ВКЛ, баючыся, што абедзве дзяржавы пасля яго смерці разарвуць унію. Шляхта бел. паветаў на палявым сойме пад Віцебскам прыняла 13.9.1562 і накіравала вял. князю ў Вільню акт з просьбай заключыць унію з Польшчай, каб мець агульныя соймы, выбіраць адзінага караля, разам абараняцца ад ворага і мець аднолькавыя правы з



Акт **Люблінскай уніі 1569**, выдадзены ад імя прадстаўнікоў ВКЛ.



польскай шляхтай. Удзельнікі сойма накіравалі ліст і жамойцкай шляхце, каб яна далучылася да акта. Аднак магнаты на чале з ваяводам віленскім і канцлерам М.*Радзівілам* Чорным выступілі супраць. Пытанне аб уніі разглядаў Віленскі сойм 1563 і выбраў дэлегацыю для перагавораў з Польшчай. Магнаты згадзіліся на гэта пры ўмове шырокай самастойнасці ВКЛ. Перагаворы працягваліся некалькі гадоў. Урэшце 10.1.569 у Любліне адкрыўся агульны сойм Польшчы і ВКЛ. Спачатку дэпутаты абедзвюх дзяржаў засядалі асобна. Магнаты ВКЛ выступалі супраць больш цеснай уніі з Польшчай, прапануючы фактычна абарончы саюз. Польскія дэпутаты звярнуліся да караля, каб сойм засядаў разам. Аднак у канцы лютага большасць дэпутатаў ВКЛ (у т.л. амаль усе магнаты), не згаджаючыся з польскім праектам уніі, пакінула Люблін. Тады польскія сенатары і дэпутаты паставілі перад Жыгімонтам Аўгустам пытанне аб далучэнні Падляшша і Валыні да Польшчы, тым больш што мясцовая шляхта была згодна на гэта, спадзеючыся на пашырэнне сваіх правоў і прывілеяў. 5.3.1569 кароль выдаў акт аб далучэнні Падляшша да Польшчы, а сойм разам з падляшскімі дэпутатамі прыняў канчатковае рашэнне пра далучэнне Падляшскага ваяв. да Кароны. Паны-рада ВКЛ заявілі пратэст, аднак большасць шляхты іх не падтрымала. Дэпутатам ад ВКЛ быў устаноўлены тэрмін, каб яны вярнуліся. Некаторыя магнаты былі пазбаўлены каралём сваіх пасад і месца ў Радзе ВКЛ. Калі дэпутаты вярнуліся, сітуацыя была іншай. 10.5.1569 Жыгімонт Аўгуст склікаў соймікі ВКЛ, дзе шляхта дала згоду на падпісанне уніі. 26.4.1569 кароль выдаў акт аб далучэнні Валынскага ваяв. да Польшчы, сойм гэта зацвердзіў 26.5.1569. Дэпутаты ад Кіеўскага ваяв., якое падвяргалася нападам крымскіх татараў, таксама далі згоду на далучэнне, і 5.6.1569 ваяводства было інкарпаравана ў склад Польшчы. Толькі шляхта Мазырскага пав. не пагадзілася на гэта, і павет быў далучаны да Менскага ваяводства. 1.6.1569 у склад Польшчы ўвайшло Падолле. ВКЛ зменшылася да этнічнай бел. і літ. тэрыторыі. Канчатковы акт Л.у. пасля новага абмеркавання быў зацверджаны соймам 1.7.1569, кароль падпісаў акт 4 ліпеня. 11.8. 1569 быў выдадзены дадатковы акт, паводле якога вызначаўся склад сената аб'яднанай дзяржавы і парадак месцаў у ім.

Актам Л.у. абвяшчалася аб'яднанне на аснове роўнасці Польшчы (Кароны) і ВКЛ (Літвы, або Княства) у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. На чале дзяржавы знаходзіўся польскі кароль (ён жа вял. князь літоўскі), якога пажыццёва выбірала шляхта. Уладу караля абмяжоўваў агульны сойм з 2 палат — *Сената* і *Пасольскай Ізбы*, у якую выбіраліся павятовымі соймікамі па 2 паслы (дэпутаты). Скасоўвалася мыта паміж Польшчай і ВКЛ, абмежаванні на атрыманне зямлі для польскай шляхты ў ВКЛ, а для бел.-літ. — у Польшчы. Дзярж. і мясцовыя пасады ў абедзвюх дзяржаў маглі займаць толькі мясцовыя ўраджэнцы. Абедзве дзяржавы захавалі свой суверэнітэт, асобную дзярж. адміністрацыю, войскі, прававую сістэму, судовы апарат, фінансавую сістэму, эмісію грошай, мытную сістэму. Сойм прымаў асобныя законы для Польшчы і ВКЛ. Суверэнітэт ВКЛ быў ўмацаваны *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588*. Кожная з дзяржаў мела сваю дзярж. мову, ВКЛ — беларускую, Польшча — лацінскую. Актам ад 3.8.1569 *Курляндскае і Земгальскае герцагства* было абвешчана васалам Польшчы і ВКЛ. *Інфлянты* абвяшчаліся сумесным іх уладаннем (кандамініумам).

Л.у. была кампрамісам феадалаў Польшчы і ВКЛ, у выніку якога ўтварылася больш моцная дзяржава. Унія замацавала паліт. адзінства абедзвюх дзяржаў, узмацніла працэсы іх эканам. і культ. збліжэння. Шляхта ВКЛ захавала свае саслоўныя прывілеі. Магнаты ВКЛ, хоць і страцілі былыя пазіцыі ў кіраванні дзяржавы, але захавалі свае латыфундыі, вышэйшыя дзярж. пасады і паліт. ўплыў. Клас феадалаў ВКЛ у цэлым выйграў ад заключэння уніі. Скончылася перамогай Інфлянцкая вайна. Разам з тым Л.у. аблегчыла паланізацыю бел.-літ. шляхты і часткі гараджан. Унія фактычна існавала да 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795).

*Літ.*: Volumina Legum. Vol. 2. 2 wyd. Petersburg, 1859; Дневник Люблинского сейма 1569 г. СПб., 1869; Любавский М. Литовско-русский сейм. М., 1900; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Его ж. Люблинская уния и третий Литовский статут // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1917. № 5; Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970; Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Любовіч** (Любович) Мікалай Мікалаевіч [16(28).3.1855, мяст. Тульчын Брацлаўскага пав. Падольскай губ., Украіна—1935], расійскі гісторык. Чл.-кар. АН СССР (1924), д-р гісторыі (1890), праф. (1890). Скончыў Кіеўскі ун-т (1877). З 1880 у Варшаўскім ун-це, дацэнт, прафесар. У 1915 разам з унтам эвакуіраваўся ў Растоў-на-Доне, выкладаў у Растоўскім (Паўн.-Каўказскім) ун-це. Даследаваў гісторыю Рэфармацыі і Контррэфармацыі ў Рэчы Паспалітай. Шырока выкарыстоўваў крыніцы з архіваў Масквы, Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Берліна, Берна, Ватыкана, Жэневы, Кёнігсберга, Парыжа, Цюрыха. Гіст. працы Л. заснаваны на метадалагічных прынцыпах пазітывізму.

*Тв.*: История реформации в Польше: Кальвинисты и антитринитарии. Варшава, 1883; К истории иезуитов в литовско-русских землях в XVI в. Варшава, 1888; Начало католической реакции и упадок реформации в Польше. Варшава, 1890; Несколько документов по истории реформации в Литве из Ватиканской библиотеки. Варшава, 1914.

*Літ.*: Беспалова А.Г. Член-корреспондент АН СССР Н.Н.Любович (1855—1935). Ростов н/Д, 1965.

***Дзмітрый Караў.***

**Любуцк** (цяпер гарадзішча ў Ферзікаўскім р-не Калужскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад на р. Ака пры ўпадзенні ў яе р. Любутка. Упамінаецца з 1372. Паводле археалагічных даных, існаваў у 14—16 ст. Невядома, каму належаў горад да канца 14 ст. Магчыма, быў бранскім эксклавам, аднак больш верагодна думка аб яго ўваходжанні ў Тарускае княства. Існуюць таксама меркаванні аб разанскай ці навасільскай прыналежнасці Л. У 1372 каля Л. адбылася сутычка паміж войскамі вял. князя літоўскага Альгерда і

вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча. Вартавы полк Альгерда быў разбіты, але гал. сілы, раздзеленыя ярам, у бітву так і не ўступілі. Бакі заключылі *Любуцкі мір 1372*. У 1396 Л. — уладанне ВКЛ. Яго наваколле абрабаваў разанскі кн. Алег Іванавіч, за што восенню таго ж года Вітаўт спустошыў Разанскае княства. У 1402 разанскі кн. Радаслаў Ольгавіч ішоў ваяваць Бранск, але яго сустрэлі пад Л. літоўскія князі Лугвень і Аляксандр Патрыкеевіч, разбілі разанскае войска, а самога князя захапілі ў палон. У пач. 15 ст. на некаторы час Л. трапіў у залежнасць ад Масквы. Яго планаваў паводле завяшчання 1404 перадаць свайму сыну Івану серпухаўскі кн. Уладзімір Андрэевіч у выпадку страты Казельска. Але маскоўская ўлада над Л. не замацавалася. Магчыма, у час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08* Л. канчаткова далучаны да ВКЛ і разам з Мцэнскамператвораны ў цэнтр намесніцтва. У канцы 15 ст. Л. стаў адным з асяродкаў канфрантацыі з Масквой. У 1473 маскоўскі ваявода Сямён Бекляміша ваяваў любуцкія воласці. У адказ любучане напалі на маскоўскага служылага кн. Сямёна Адоеўскага і забілі яго. З 1486 рэгулярна з'яўляюцца скаргі з маскоўскага боку на дзеянні жыхароў Л. і з боку мцэнскага і любуцкага намесніка і саміх любучан на спусташэнне любуцкіх мясцін. У жн. 1492 маскоўскі ваявода кн. Фёдар Целяпня-Абаленскі захапіў Л., спаліў яго і вывеў вял. палон (да 1500 чал.). У перагаворах 1494 за саступку ВКЛ Л. Масква разлічвала завалодаць Мезецкам. Але ў выніку Л. застаўся ў складзе ВКЛ, а Мезецк быў падзелены на часткі паміж прыхільнікамі Масквы і Вільні. Л. зрабіўся эксклавам у акружэнні маскоўскіх уладанняў. Пазіцыя жыхароў горада і яго валасцей вымушала маскоўскі бок мірыцца з існаваннем у глыбіні Рас. дзяржавы ўлады ВКЛ. У пачатку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* Л. быў захоплены маскоўскімі войскамі Якава Захар'іна, а ў 1503 паводле 6-гадовага перамір'я прызнаны ВКЛ за Масквой. У пач. 16 ст. Любуцк згубіў сваё значэнне і прыйшоў у заняпад. У 1566 упамінаўся як гарадзішча. На ім планавалася будаўніцтва крэпасці, аднак на мяжы 16—17 ст. жыццё тут канчаткова спынілася.

*Літ.*: Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Болдин И.В. Археологическое исследование городища летописного Любутска // Дмитрий Донской и эпоха возрождения Руси. Тула, 2001; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV в. вне Северо-Восточной Руси // Средневековая Русь. М., 2004. Вып. 5.

***Віктар Цемушаў.***

**Любуцкі мір 1372.** Заключаны ў сярэдзіне ліп. 1372 каля г. Любуцк на р. Ака (побач з сучасным г. Алексін Тульскай вобл. Расіі) паміж вял. князямі літоўскімі Альгердам і Кейстутам з аднаго боку і вял. кн. маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам (Данскім) і серпухаўска-бароўскім кн. Уладзімірам Андрэевічам Храбрым (мужам дачкі Альгерда Алены) з другога. З боку ВКЛ удзельнічаў таксама вял. князь цвярскі Міхаіл Аляксандравіч. Дагавор завяршыў *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72*. Заключаны пасля няўдалай для літ.-цвярскога войска сутычкі перадавых атрадаў каля Любуцка і некалькіх дзён стаяння на процілеглых баках глыбокага яра. Як паведамляе *Супрасльскі летапіс*, гэта быў па сваім характары «вечны» мір, які пацвердзіў пратэктарат ВКЛ над Цвер'ю і даваенныя межы дзяржаў.

*Літ.*: Черепнин Л.В. Русские феодальные архивы. М.; Л., 1948. Ч. 1. С. 189; Полное собрание летописей. М.; Л., 1965. Т. 15. Стб. 103, 433; 1949. Т. 25. С. 187; 1980. Т. 35. С. 49; Опись архива Посольского приказа 1626 г. М., 1977. Ч. 1. Л. 6—6 об.

***Алесь Белы.***



Да арт. **Любуцкі мір 1372**. Акт, выстаўлены з боку ВКЛ.

**Любча** (цяпер гар. пасёлак у Навагрудскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Новагародскім пав., на левым беразе Нёмана. Упершыню згадваецца ў 1401 у ням. хроніках як аб'ект ваенных паходаў крыжакоў. У 1428 вял. кн. Вітаўт перадаў сяло Л. сваёй жонцы Ульяне. З 1465 уласнасць віленскага ваяводы М.Кезгайлы. У 1499 вял. кн. Аляксандр падараваў двор Л. свайму пісару Федзьку Рыгоравічу. У 1517—28 уладальнікамі Л. былі Г.Ельмановіч і М.Меляшковіч, апошні заснаваў у Л. мястэчка. З 1528 уласнасць віленскага ваяводы А.Гаштольда, з 1574 — старасты жамойцкага Я.Кішкі, які заснаваў у Л. школу і арыянскі храм (у 17 ст. ператвораны ў кальвінскі збор). У 1590 кароль Жыгімонт III даў Л. магдэбургскае права і герб (у блакітным полі сярэбраная падкова з 3 залатымі крыжамі і 2 сярэбранымі рыбамі). У канцы 16—пач. 17 ст. пабудаваны *Любчанскі замак*. З 1606 Л. належала князям Радзівілам. У 17 ст. існавала *Любчанская друкарня*. У 1644 Л. атрымала новы герб (у балкітным полі брама з 2 вежамі, наверсе брамы, паміж вежамі, збройны рыцар, які трымае ў правай руцэ меч, у левай — шчыт), 144 двары, рынак, 4 вуліцы. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* моцна разбурана. У 1671 было 116 двароў, кальвінскі збор, царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Уладзімір Бянько, Валерый Шаблюк.***

**Любчанская друкарня**. Існавала ў 17 ст. ў мяст. *Любча*. Заснавана П.Б.*Кмітам*, які ў 1612 перавёз сюды друкарскае абсталяванне з Вільні. Друкарня пераважна абслугоўвала патрэбы кальвіністаў, але зрэдку прымала заказы і каталікаў. За 20 гадоў Кміта выдаў 59 назваў кніг на польскай і лацінскай мовах па гісторыі, медыцыне, філасофіі і інш. Сярод іх «Эпітоме» (1614), «Навагародскі дыспут» Я.Зыгроўскага (1616), «Гісторыя іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія (1617), «Генеалогія, або Кароткае апісанне вялікіх літоўскіх князёў» М.Стрыйкоўскага ў перапрацоўцы С.Доўгірда (1626), «Статут Слуцкай школы» (1628) і інш. З 1632 друкарню ўзначальваў сын Кміты Ян Даніэль. Ён выдаў кнігу арыянскага аўтара І.Шліхтынга «Аб св. Тройцы супраць Балтазара Мейснера» на лацінскай мове (1639), панегірыкі і літургічныя творы па заказу віленскіх лютэран (усяго 24 назвы). У 1646—55 (або 1656) кіраўніком друкарні быў Я.*Лянге*, які выдаў 14 кніг пратэстанцкага кірунку, сярод іх «Пасціла» і «Псалтыр» лютэранскага пастара А.Шонфлісіуса. З друкарняй супрацоўнічаў вядомы гравёр К.*Гётке*.

*Літ.*: Topolska M.B. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984. S. 97—101.

***Юрась Лаўрык.***


PROVERBIORVM
POLONICORVM
Sol. A
SOLOMONE RYSINIO
COLLECTORVM
CENTVRIÆ
DECEM ET OCTO.
I.A.ZALVSKI

LUBECÆ AD CHRONVM.
In Officina
Petri Blasti Kmitæ.
An. Dñi. M. DC. XIIX.
Decembribus horis.

Да арт. **Любчанская друкарня**. Рысінскі С. Тысяча восемсот польскіх прыказак. Любча. 1618.

**Любчанскі замак**. Існаваў у 16—18 ст. у мяст. *Любча*. Пабудаваны на высокім левым беразе Нёмана. Прамавугольны ў плане (64 x 87 м), быў ўмацаваны валунамі, з З, Пд і У — ровам (шырыня каля 30 м, глыбіня 7—10 м). На паўд.-зах. і паўд.-ўсх. вуглах замчышча захаваліся 2 мураваныя вежы. Паўд.-зах. вежа-брама (10,15 x 9,8 м) мае выгляд куба, які на вышыні каля 8 м пераходзіць у 8-гранную прызму. Падмурак складзены з вял. камянёў на вапне, вышыня 3,85 м. Вежа мела 4 ярусы бою: на 1-м 8 ружэйных, на 2-м і 3-м адпаведна 12 і 8 гарматных байніц. На 4-м ярусе ў кожнай з 8 сцен было па 2 байніцы для ружэйнага агню. Аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй гэта вежа вельмі падобная да вежаў Мірскага замка і некаторых абарончых вежаў Віцебскага Верхняга замка. Па мяшанай гатычна-рэнесансавай муроўцы паўд.-зах. вежу можна датаваць 2-й пал. 16 ст. Пра гэта сведчыць і знойдзены флюгер-ветранік з гербам Радзівілаў і лічбамі «1581». На пачатку вежа была, відаць, адзінай мураванай у драўляным замку, пра што ўскосна сведчаць прасла, што прымыкае да яе мураванай сцяны, і 2-я вуглавая паўд.-ўсх. вежа, якая адрозніваецца формай, памерамі (8,3 x 8,3 м) і рэнесансавай муроўкай (чаргаванне суцэльных радоў рубаў і старчкоў). Яе пабудавалі, відаць, у пач. 17 ст., бо на гербе, які Любча атрымала ў 1644, намаляваны 2 вежы. Яна таксама стаіць на падмурку вышынёй каля 4 м. У вежы былі 3 ярусы бою: на 1-м 4 ружэйныя, на 2-м 4 гарматныя, на 3-м 12 ружэйных байніц. Прасла замкавай сцяны паміж вежамі таксама рэнесансавай муроўкі мела таўшчыню 1,3 м. На паўн. баку замчышча, па-над Нёманам, паміж 2 невял. вежамі, размяшчаўся палац. Паводле інвентару Л.з. за 1661, вежы мелі бляшаныя дахі з купаламі, на якіх знаходзіліся флюгеры з гербам Радзівілаў. Паўд.-зах. ўязная вежа запіралася дубовай брамай, перад ёю цераз роў быў перакінуты пад'ёмны мост. Пад вежай размяшчаліся скарбец і вязніца. На сцяне, звернутай у бок замкавага падворка, знаходзіўся гадзіннік. Справа ад уваходу была кардэгардыя (каравульнае памяшканне), ва ўсх. частцы замкавай сцяны — фортка, якая выводзіла на 2-і мост. У 1655 Л.з. быў узяты казакамі І.Залатарэнкі. У 18 ст. замак страціў абарончае значэнне.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991; Чарняўскі І., Саітгарэева С. Замак у Любчы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984. № 4.

***Міхась Ткачоў.***

**Любяшоўскі піярскі калегіум**. Дзейнічаў у 1693—1834 у мяст. Любяшоў (Новы Дольск) Пінскага пав. (цяпер пасёлак гар. тыпу ў Валынскай вобл. Украіны). Заснаваны ў 1686 кн. Я.К.Дольскім. Пры калегуме існавалі 3 канвікты (пансіёны) для дзяцей збяднелай шляхты. У 1750—60-я г. навучальная сістэма калегіума рэарганізавана паводле рэформ С.Канарскага. У апошняй чвэрці 18 ст. ў час дзейнасці *Адукацыйнай камісіі* Л.п.к. быў падакруговай школай, з 1783 у Берасцейскай навучальнай акрузе, з 1790 — у асобай Піярскай навучальнай акрузе з тэрмінам навучання 6 гадоў (у 3 класах) і 4 выкладчыкамі (рэктар, прэфект,




**Любяшоўскі піярскі калегіум**. Фота пач. 20 ст.

выкладчык мовы і матэматыкі, малодшы выкладчык). У 1782 у калегіуме вучылася 60 юнакоў, у 1788 — 75, у 1789 — 70. У 1826 пераўтвораны ў павятовае 4-класнае вучылішча, у 1834 скасавана. Сярод выхаванцаў Т.Касцюшка (1755—60), яго старэйшы брат Юзаф, прафесары Віленскага ун-та А.Доўгірд, Ф.Серафімовіч, М.Францкевіч, Б.Сыруць, паэт М.Харкевіч.

***Андрэй Самусік.***

**Людвік I** Вялікі (Lajos I Nagy, Ludwik I Wielki; 5.3.1326—11.9.1382), кароль венгерскі [1342—82] і польскі [1370—82]. З французскай дынастыі Анжу. Сын венгерскага караля Карла (Роберта) Анжуйскага і Эльжбеты, сястры польскага караля *Казіміра III*. З 1335 спадкаемца польскага трона. З 1340 дапамагаў Казіміру III у барацьбе за *Галіцка-Валынскае княства*, дбаючы пры гэтым пра венгерскія інтарэсы, што выклікала яго сутыкненне з валынскім кн. *Любартам*. У лют. 1345 у складзе войска крыжакоў удзельнічаў у беспаспяховым паходзе на Вялену, Бісену і Трокі. Прымаў удзел у паходах Казіміра на Валынь, Падляшша і Берасцейшчыну ў 1349—51, у час якіх венгерскія войскі часова авалодалі паўд.-зах. землямі ВКЛ. Асабліва няўдалай для ВКЛ была вайна ў ліп.—жн. 1351, калі Л. I захапіў у палон Любарта і *Кейстута*. 15.8.1351 Л. I прымусіў іх падпісаць дагавор, паводле якога ВКЛ павінна было заплаціць вял. выкуп і адмаўлялася ад прэтэнзій на Галіччыну. Кейстут разам з Л. I адправіўся ў Венгрыю як гарант дагавора і для хрышчэння, але здолеў уцячы. У 1354 Л. I паранены пры аблозе крэпасці ВКЛ Белз на Валыні. Пасля заняцця польскага трона Л. I зноў пачаў войны з ВКЛ (1372—77), у выніку іх Белз і Холм далучаны да Галіччыны, якая пры Л. I часова ўвайшла ў склад Венгрыі, а Любарт, як і падольскія князі Аляксандр і Барыс Карыятавічы і ратненскі кн. Фёдар Альгердавіч (якому належаў і Кобрын з акругай), быў вымушаны прызнаць сюзерэнітэт Венгрыі. Л. I некалькі разоў прапаноўваў праекты хрысціянізацыі Літвы, ініцыіраваў стварэнне ў 1375 каталіцкага *Луцкага біскупства*, юрысдыкцыя якога ахапіла і паўд.-зах. землі Беларусі, на якія ў 14—18 ст. пашыраліся венгерскія экспансіяністкія планы. Праўленне Л. I супала з «залатым векам» еўрап. рыцарства, да пашырэння ідэалогіі і эстэтыкі якога ў Цэнтр і Усх. Еўропе ён істотна прычыніўся. Пры ім дасягнулі росквіту эканоміка і культура ў Венгрыі: адчынены ун-т у г. Печ, пачаў чаканіцца залаты *дукат*, які ў 14—16 ст. адыгрываў ролю рэгіянальнай залатой валюты Цэнтр. і Усх. Еўропы, у т.л. Беларусі. Выдадзены Л. I у 1374 агульнапольскі Кошыцкі прывілей гарантаваў шляхце ўзровень імунітэту, якім дагэтуль карысталіся толькі вышэйшыя феадалы (асабістая недатыкальнасць, сімвалічныя падаткі на карысць дзярж. скарбу і інш.). Гэта дало пачатак шляхецкаму дзярж. ладу Польшчы, а пазней і ВКЛ. Пасля смерці Л. I польскай каралевай абрана яго дачка *Ядвіга*, аддадзеная пазней замуж за вял. князя літоўскага *Ягайлу*.




**Людвік I**. Гравюра з кнігі Я.Глухоўскага «Выявы князёў і каралёў польскіх». Кракаў. 1605.

*Літ.*: Historiae Hungaricae Fontes Domestici. Vol. 3. Lipsiae, 1884; Dąbrowski J. Ostatnie lata Ludwika Wielkiego, 1370—1382. Kraków, 1918; Halecki O. O genezie i znaczeniu rządów andegaweńskich w Polsce // Kwartalnik historyczny. 1921. R. 35; Sacerdoteanu A. Lupta moldovenilor cu litvanii in 1377. Bucuresti, 1936; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987.

***Алесь Белы.***

**людвісарства**, ліцейная справа, рамяство, звязанае з адліваннем і апрацоўкай рэчаў з медзі, бронзы, латуні, звоналіцейнай медзі (гарматы, званы, ваенны рыштунак, дробныя вырабы штодзённага ўжытку — посуд, падсвечнікі і г.д.). Першы людвісарскі цэх быў заснаваны ў Зах. Еўропе ў 13 ст., у Польшчы і ВКЛ яны з'явіліся ў 15 ст. Высокай ступені артыстызму людвісарскае майстэрства дасягнула ў 16—17 ст. у Францыі і Германіі. У Польскім каралеўстве гал. асяродкамі Л. былі Кракаў (звон Жыгімонта I у Мар'яцкім касцёле), Львоў (у 1540—60-х г. працаваў Ленхарт Херл). Асн. прадукцыяй людвісарняў былі гарматы. Майстры-людвісары ў гарадах ВКЛ займаліся ў асноўным асобнымі кірункамі Л. — пушкары і адліўшчыкі званоў (звон Алелькавічаў у Слуцку на 220 пудоў, віцебскі звон 1623). У 17 ст. побач з людвісарскімі цэхамі пачалі дзейнічаць каралеўскія людвісарні ў Вільні, Львове, Варшаве (майстар Даніэль Тым) і прыватныя майстэрні (радзівілаўскія). У Нясвіжы людвісарня была заснавана ў 1600 Германам Молцерам. Яе асн. прадукцыяй былі гарматы і ваенны рыштунак, магчыма, рабіла і званы. Да 1778 дзейнічала радзівілаўская людвісарня ва Урэччы, дзе выраблялся ваенны рыштунак. Асн. металам для вырабу рэчаў штодзённага ўжытку было волава (посуд, аздоба люстэркаў, сакральныя рэчы). Захавалася інфармацыя пра дзейнасць ліцейных цэхаў у Слуцку (1728—1800) і Магілёве (1650, 1765). У гэты час пачаўся іх распад на шэраг цэхаў, якія спецыялізаваліся на асобных кірунках ліцейнай і металаапрацоўчай дзейнасці (латуншчыкаў, бляхароў, гравёраў). У 19 ст. з развіццём металургічнай прамысловасці Л. перастала існаваць.

*Літ.*: Bersohn M. Dawna zbrojownia Książąt Radziwiłłów w Nieświeżu. Warszawa, 1904; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1988. Т. 2.

***Анастасія Скеп'ян.***

**людзі**, юрыдычны тэрмін у прававых дакументах ВКЛ 15—18 ст. (у 18 ст. ўжываўся рэдка), якім вызначалася некалькі дзесяткаў катэгорый насельніцтва, часам вельмі вузкія групы. Найб. пашыраныя тэрміны: Л. народу хрысціянскага, пенежныя, простага стану, прыказныя, свавольныя, лёзныя.

Л. народу хрысціянскага — грамадзяне хрысціянскай веры;



насельніцтва ВКЛ, якое поўнасцю карысталася палажэннямі Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588. Спец. артыкул ва ўсіх Статутах забараняў нехрысціянам мець нявольнікаў-хрысціян. Купля хрысціяніна ці хрысціянкі ў няволю яўрэем, татарынам і «кождым бесурмяниным» лічылася незаконнай. Перавод з хрысціян у інш. рэлігію караўся спаленнем на кастры.

Л. пенежныя (Л. «в пенязех») — катэгорыя сялян у 15—1-й пал. 16 ст., якія, пераходзячы да новых феадалаў, бралі ў іх пазыку і абавязваліся выконваць сял. службу да моманту яе выплаты. Назву «Л. пенежныя» мелі таксама і жаўнеры, наёмныя салдаты ў войску ВКЛ у 15—16 ст., якія атрымлівалі за сваю службу грашовае жалаванне (пензі). Тэрміны «Л. пенежныя» і «Л. служэбныя» сустракаюцца ў шматлікіх дакументах Метрыкі ВКЛ. Л. служэбныя падзяляліся на Л. езных (конніцу) і Л. пешых (пяхоту).

Л. простага стану — мяшчане і сяляне ў ВКЛ. Тэрмін сустракаецца ўжо ў Статуце ВКЛ 1529. У Статуце ВКЛ 1566 у 1-м артыкуле 12-га раздзела як Л. простага стану ўпамінаюцца панцырныя і путныя слугі, бортнікі, цяглыя сяляне, парабкі. Часцей тэрмін «Л. простага стану» сустракаецца ў Статуце ВКЛ 1588, дзе пералічаны іх катэгорыі: «бояре панцерные, путные, мещане, або люди тяглые». 12-ы раздзел Статута ВКЛ 1588 у загалоўку мае тэрмін «людзі простыя». Гэты тэрмін часта ўжываўся і ў інш. афіцыйных актах 16 ст.

Л. прыказныя (слугі прыказныя) служылі па вольным найме ці былі аддадзены на службу вотчыннікам. Юрыдычна былі ўраўнаваныя з Л. вольнымі пахожымі. Таму ўжываўся і тэрмін «Л. вольныя, прыказныя, пахожыя».

Л. свавольныя — разбойнікі, якія хаваліся ў стэпах паўд. часткі ВКЛ, рабавалі маёнткі магнатаў і шляхты, нападалі на пагранічнае насельніцтва суседніх краін. Законы ВКЛ абавязвалі старастаў і гетманаў лавіць іх і караць смерцю. У дакументах 16—17 ст. тэрмін ужываўся і для абазначэння Л. лёзных, а таксама казакоў-паўстанцаў.

Л. лёзныя (люзныя, гультаі) — сац. і юрыд. катэгорыя насельніцтва, якая існавала ў ВКЛ у 16—17 ст. Паходзілі пераважна з вольных сялян, *людзей пахожых*, што страцілі сваю гаспадарку і ў пошуках заробку пераходзілі з вёскі ў вёску, а ў канцы 16—17 ст. — з горада ў горад. Яны папаўнялі гарадскі плебс, выконвалі часовыя работы ў рамеснікаў ці гандляроў, наймаліся матросамі на гандлёвыя судны. На перыяд жніва і сенакосу ці ў час вайны Л. лёзныя прымусова выкарыстоўваліся на с.-г. работах. У 1-й пал. 17 ст. Л. лёзныя складалі ў некаторых гарадах Беларусі каля 10—13% насельніцтва (Слонім, Менск, Чавусы, Слуцк, Магілёў, Віцебск, Полацк). Па меры запрыгоньвання сялянства катэгорыя Л. лёзных у 2-й пал. 17 ст. знікае.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Плебейский люд (лезные) в деревне Речи Посполитой // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962 г. Мн., 1964; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 191; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975. С. 221—223; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 57—61.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**людзі непахожыя**, феадальна-залежныя сяляне ў ВКЛ, пазбаўленыя права на пераход ад аднаго феадала да другога. Юрыдычнае афармленне прыгоннага становішча Л.н. пачалося з *прывілея 1447*. Складалі асн. катэгорыю сельскага насельніцтва. У залежнасці ад павіннасцей падзяляліся на цяглых, чыншавых і інш. У некаторых дакументах ВКЛ называліся *отчычамі*. У 15 ст. складалі ўжо значную частку сельскага насельніцтва, але яшчэ не большасць яго. Некаторыя дакументы 15 ст. разглядаюць Л.н. як прыналежнасць феад. маёнткаў. Яны з пакалення ў пакаленне жылі ў адной мясцовасці і выконвалі феад. павіннасці па спадчыне (адсюль з пач. 16 ст. пашырылася назва іх «отчычы», «атчызныя людзі»). Дзярж. ўлада прызнавала за панамі права ўласнасці на Л.н. Паводле прывілея 1447 забаранялася прымаць на велікакняжацкія (дзяржаўныя) землі такіх сялян, якія здаўна жылі ў адным месцы. *Судзебнік 1468* строга забараняў выводзіць Л.н. з тых паселішчаў, дзе яны жылі. Так Л.н. пазбаўляліся свабоды перамяшчэння з адной мясцовасці ў другую, ад аднаго феадала да другога. У 16 ст. феадалы розных ваяводстваў і паветаў пачалі заключаць паміж сабой дагаворы аб непрыняцці ў свае маёнткі Л.н. з інш. ваяводства і павета і вяртанні іх з сем'ямі назад свайму пану. Л.н. станавіліся ўласнасцю феадалаў, якія, замацаваўшы юрыдычна правы на Л.н., маглі прадаваць, купляць, мяняць, падараваць, закласці іх узамен узятай грашовай пазыкі. Але перадача Л.н. адбывалася разам з іх зямельнымі надзеламі, бязвыезна. Гэта катэгорыя залежнага сялянства папаўнялася рознымі шляхамі, найперш за кошт неаплатных даўжнікоў, якія не маглі разлічыцца з панам. Яшчэ адной крыніцай папаўнення Л.н. было закладніцтва. Паступова ў 16 ст. феадалы пашыралі права 10-гадовай земскай даўнасці на *людзей пахожых*, якія, «засядзеўшы земскую даўнасць», пазбаўляліся права пераходу ў інш. мясцовасць. Так, катэгорыя Л.н. пашыралася за кошт скарачэння пахожых людзей. Калі паншчына стала асн. павіннасцю прыгоннага сялянства, Л.н. ўсё часцей у дакументах называюцца «людзьмі цяглымі», «людзьмі прыгоннымі». У канцы 16—1-й пал. 17 ст. пасля правядзення агр. рэформы вял. кн. Жыгімонта Аўгуста і аналагічнага правядзення *валочнай памеры* ў прыватнаўласніцкіх маёнтках Л.н. і людзі пахожыя зліліся ў адну групу прыгоннага сялянства.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Его ж. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 367—412.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**людзі пахожыя**, людзі вольныя, феадальна-залежныя сяляне ў ВКЛ у 15—1-й пал. 17 ст., якія карысталіся правам вольнага пераходу ад аднаго феадала да другога і не былі прымацаваны да зямлі, як *айчызныя людзі* або *чэлядзь нявольная*. Лічыліся асабіста вольнымі. Тэрмін «Л.п.» або «людзі вольныя» часта ўжываецца ў Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588. У актах 16 ст. Л.п. называюцца таксама людзьмі прыбылымі, прыхожымі. У 15 ст. Л.п. складалі найбольшую групу сялянства. Пераходзячы да інш. землеўладальніка, Л.п. павінны былі выплаціць грашовы эквівалент усіх павіннасцей, выка-



наць умовы выхаду і папярэдзіць пра гэта землеўладальніка. Л.п. маглі ўзяць з сабой сваю маёмасць. Феадал не меў права затрымліваць выхад Л.п. ці прысвойваць іх рухомыя рэчы («дамовыя статкі»). Наяўнасць у 15—1-й пал. 16 ст. вял. колькасці Л.п. тлумачыцца намаганнем буйных феадалаў схіляць вольных людзей да перасялення ў свае маёнткі, каб папаўняць рабочую сілу. Гэты працэс быў найб. пашыраны ў раёнах менш гаспадарча асвоеных. Дробныя феадалы, для якіх права пераходу сялян было нявыгадным, змагаліся за яго забарону. Колькасць Л.п. скарачалася па меры ўзмацнення паліт. правоў шляхты. У Статутах ВКЛ 1529 і 1566 тэрмін даўнасці, паводле якога пахожы селянін траціў права пераходу і станавіўся непахожым, не быў агавораны, хоць у Статуце ВКЛ 1529 прыводзіцца 10-гадовы тэрмін земскай даўнасці. Гэты артыкул Статута феадалы і дзярж. апарат выкарыстоўвалі, каб запрыгоніць Л.п., што пражылі ў панскіх маёнтках больш за 10 гадоў. У асобных ваяводствах Беларусі ўсё часцей прымаліся агульныя для ваяводства пастановы, што рэгулявалі адносіны з Л.п., прадугледжвалі прыцягненне іх да *паншчыны*. Такімі актамі былі пагадненні феадалаў Полацкай зямлі ў 1522 і Віцебскага ваяв. ў 1531 (абодва зацверджаны вял. князем). У 1551 феадалы Полацкага і Віцебскага ваяводстваў зноў прынялі пастанову аб Л.п., паводле якой павіннасці іх павялічваліся. Ад пана можна было пайсці, толькі папярэдзіўшы яго на мірскім сходзе ў першы тыдзень вял. посту, заплаціўшы 12 грошаў і пакінуўшы ў парадку дом і поле. Пагадненне было зацверджана вял. князем. Статут ВКЛ 1566 захаваў заканадаўчыя палажэнні пра Л.п. Статут ВКЛ 1588 канстатаваў узмацненне працэсу запрыгоньвання Л.п. Пахожы селянін мог пайсці ад феадала, толькі адпрацаваўшы льготныя гады або заплаціўшы па 6 грошаў за льготны тыдзень. Калі ж пахожы селянін прабыў у пана 10 гадоў, то незалежна ад таго, атрымліваў ад шляхціца дапамогу ці не, ён пазбаўляўся права пераходу і разам з дзецьмі пераводзіўся на становішча *отчыча*. Ён мог адкупіцца, аддаўшы пану 10 коп грошаў і заплаціўшы за атрыманую ад пана дапамогу. Але заплаціць такія грошы селянін фактычна не меў магчымасці. Збеглых Л.п. феадалы адшуквалі ўжо як отчычаў. Заканадаўства ВКЛ паслядоўна ўмацоўвала пазіцыі феадалаў і запрыгоньвала сялян. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. пахожыя і непахожыя сяляне зліліся ў адну групу прыгоннага сялянства. Пра гэта сведчаць рашэнні соймаў 1570—1640-х г., дзе тэрміны «пахожыя сяляне» і «непахожыя сяляне» ўжо не сустракаюцца, а ўсіх сялян называюць «падданыя» (каралеўскія, панскія і духоўныя).

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Яго ж. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Люлевіч** (Lulewicz) Генрык (н. 22.4.1955, г. Сакулка Падляскага ваяв., Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (2003). Скончыў Варшаўскі ун-т (1975). З 1976 у Ін-це гісторыі Варшаўскага ун-та (асістэнт, старшы асістэнт, ад'юнкт), з 2003 дацэнт Ін-та гісторыі Польскай АН. Даследуе паліт. і грамадскае жыццё ў ВКЛ у 16—17 ст., дыпламатычныя адносіны паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай у 16—1-й пал. 17 ст. Апублікаваў рэестры падымнага Троцкага і Навагародскага ваяводстваў 1690 [«Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: Województwo trockie 1690 r.», Варшава, 2000; «Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: Województwo nowogródzkie 1690 r.», Варшава, 2002 (з А.Рахубам)].

*Тв.*: Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 11. Urzędnicy centralny i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku: Spisy. Kórnik, 1994 (з А.Рахубам); Gniewów o unię ciąg dalszy: Stosunki polsko-litewskie w latach 1569—1588. Warszawa, 2002; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 4. Ziemia smoleńska i województwo smoleńskie XIV—XVIII wiek. Warszawa, 2003 (з А.Рахубам, П.Раманюком); Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 1. Województwo wileńskie XIV—XVIII wiek. Warszawa, 2004 (з А.Рахубам, П.Раманюкам).

**люстрацыі** (польск. lustracja ад лац. lustrum падатковы або фіскальны перыяд), перыядычныя вопісы дзяржаўнай маёмасці з мэтай вызначэння яе даходнасці; дакументы, дзе фіксаваліся вынікі вопісаў. У ВКЛ і Польшчы праводзіліся ў 16—18 ст. (з 1562 кожныя 5 гадоў) з мэтай павелічэння даходнасці дзярж. уладанняў, а таксама пры перадачы іх новаму дзяржаўцу. Л. праводзілі спецыяльна прызначаныя чыноўнікі — люстратары, асоба якіх лічылася недатыкальнай, а знявага разглядалася як цяжкае дзярж. злачынства. Паколькі Л. шляхецкіх маёнткаў не праводзіліся, то ў ВКЛ, асабліва ў познія часы, яны ахаплівалі толькі частку насельніцтва, якая з памяншэннем велікакняжацкіх уладанняў станавілася ўсё меншай. Л., як і *інвентары*, з'яўляюцца важнай крыніцай для вывучэння гаспадарчай гісторыі ВКЛ.

**Лютувер** (?—каля 1292), літоўскі князь; гл. *Путувер*.

**Люты** Анатоль Міхайлавіч (н. 2.1. 1951, г.п. Смілавічы Чэрвеньскага р-на), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1990), праф. (1991). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1976). З 1982 старшы выкладчык, з 1985 заг. кафедры Мінскага педагагічнага ін-та (з 1993 Бел. педагагічны ун-т). Даследуе сац.-эканам. і культ. развіццё Беларусі ў 18—19 ст., генезіс капіталізму на Беларусі. Адзін з аўтараў і рэдактараў зборнікаў «Нацыянальная палітыка Расійскага самадзяржаўя на Беларусі ў канцы XVIII—пачатку XIX стст.» (1995), «Гісторыя матэрыяльнай і духоўнай культуры нацыянальнасцяў Беларусі ў другой палове XVIII—першай палове XIX стст.» (1996).

*Тв.*: Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII—первой половине XIX в. Мн., 1987; Историография и источники по проблеме генезиса капитализма в России и её национальных регионах. Мн., 1989; Генезис капитализма в промышленности Белоруссии (вторая половина XVIII—первая половина XIX в.). Мн., 1991; Гістарыяграфія і крыніцы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў другой палове XVIII—першай палове XIX ст. Мн., 1996 (з В.Ф.Касовічам).

**Лявіцкі** (Lewicki) Анатоль (4.4. 1841, в. Прысоўцы каля Збората, Украіна—25.4.1899), гісторык. Чл.-кар. Польскай АН у Кракаве (1889), д-р (1875), праф. звычайны (1887). Пасля скончэння Львоўскага ун-та выкладаў

у гімназіях у Перамышлі і Львове. З 1883 праф. Львоўскага ун-та. Вывучаў гісторыю ВКЛ і Польшчы пераважна 15 ст. Абгрунтоўваў тэзіс пра інкарпарацыю ВКЛ у склад Польскага каралеўства пасля Крэўскай уніі 1385. У манаграфіі «Паўстанне Свідрыгайлы: урывак з гісторыі уніі Літвы з Каронай» («Powstanie Świdrygiełły: ustęp z dziejów unii Litwy z Koroną», Кракаў, 1892) абагульніў матэрыялы пра феад. вайну ў ВКЛ 1432—39 паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Аўтар падручніка «Нарыс гісторыі Польшчы і злучаных з ёю рускіх зямель», які вытрымаў шмат выданняў. Выдаваў гіст. крыніцы, у асн. 15 ст.

*Тв.*: Mieszko II. Lwów, 1875; Wstąpienie na tron polski Kazimierza Jagiellończyka. Lwów, 1886; Obrazki z najdawniejszych dziejów Przemyśla. 2 wyd. Przemyśl, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**лявок**, у ВКЛ, на украінскіх землях Польскага каралеўства і ў Маскоўскім царстве папулярная назва лёвендаальдэра — *талера* Галандскай рэспублікі апошняй чвэрці 16—17 ст. з выявай льва на адным баку і рыцара са шчытом на другім. Лігатурная маса 27,7 г, проба 750 праміле.

***Іван Сінчук.***

**Лявонава** Ала Канстанцінаўна (н. 3.5.1937, Мінск), беларускі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1973). Скончыла БДУ (1960). З 1961 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Працы па старажытнай бел. скульптуры, сучасным бел. нар. мастацтве. Адзін з аўтараў «Гісторыі мастацтва народаў СССР» («История искусства народов СССР», т. 9, Масква, 1982), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—3, 1987—89).

*Тв.*: Народная деревянная скульптура Белоруссии. Мн., 1977; Старажытнабеларуская скульптура. Мн., 1991; Скульптурны партрэт эпохі Рэнесанса // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994.

**Лявонцій** К а р п о в і ч [Карпавіч; свецкае імя Лонгін (Логін, Логвін); 1579/80—24.9(4.10).1620], дзеяч праваслаўнай царквы. Шляхціц, сын пратапопа Пінскай замкавай Дзімітраўскай царквы Фёдара Міхайлавіча Карповіча (памёр у 1598). Вызначаўся высокай адукаванасцю. Вучыўся ў школе Пінскага Лешчынскага манастыра ці ў



Да арт. **Лявок**. Талер (левендаальдэр) Галандскай рэспублікі, г. Утрэхт. 1648.

адной з астрожскіх школ, у Віленскай брацкай школе пры праваслаўным Свята-Троіцкім (з 1597 Свята-Духавым) брацтве. Свабодна валодаў грэчаскай, лац., царк.-слав., польскай, «рускай» мовамі. Як братчык выконваў абавязкі «шпітальнага дазорцы», «царкоўнага вітрыкуша», «карэктара і друкара» (пасля гібелі С.Зізанія ўзначаліў брацкую друкарню), «слугі і пісара брацкага», школьнага «дыдаскала», а пазней таксама і рэктара брацкай школы; быў старэйшынай (адным з трох па статуце) Свята-Духава брацтва. У снеж. 1609 як брацкі пасол удзельнічаў у Варшаўскім сойме. Не пазней пач. 1610 прыняў манаскі пострыг з імем Л., у хуткім часе стаў святаром. Узначаліў стварэнне кінавійнага манастыра пры новай брацкай царкве Сыходжання Св. Духа і быў прызначаны яго архімандрытам. 14.4. 1610 за выданне антыуніяцкага твора «Фрынас» М.*Сматрыцкага* арыштаваны і паводле загаду караля Жыгімонта III закаваны ў кайданы і кінуты ў «зямляную яму», дзе правёў 2 гады. Пасля вызвалення працягваў выконваць абавязкі святара, архімандрыта і старэйшыны. Абараняў правы брацтва ў судовых установах. Рэфармаваў брацкую школу. Наглядаў за работай друкарняў у Вільні і Еўі. Шмат перакладаў, пісаў, кожны дзень прапаведаваў у брацкай царкве. З 1616 (1613?) нарачоны епіскап уладзімірскі і берасцейскі. Настаўнік і духоўны кіраўнік Мялеція Сматрыцкага, Сільвестра Косава, Ісаія Трафімовіча, Іосіфа Бабрыковіча. Вядомы ў ВКЛ і па-за яго межамі як «муж богодухновенный», выдатны прапаведнік, абаронца праваслаўя, адзін з заснавальнікаў айчыннай сістэматычнай тэалогіі. Узначальваемае Л. Віленскае правасл. стаўрапігіяльнае брацтва Сыходжання Св. Духа ў пач. 17 ст. стаяла на чале антыуніяцкага руху ў ВКЛ. Нятленныя астанкі Л. працяглы час захоўваліся ў Свята-Духавай царкве, а сам ён шанаваўся як святы, але ні яго абраз, ні служба яму не захаваліся. З твораў Л. вядомыя: «Казанье двое, едно на Пребражение, другое на Успение» (Еўе, 1615), «Кінавіён» (Еўе, 1618), «Казанье пред Рождеством Христовым» (рукапіс у Кіева-Сафійскім зборы № 357), пасланне на Афон «Чесному священноинокови господиню отцю Кирилу (Пафнутию, Елисею)» (1619), «Казанье на погреб кн. В.В.Голицина» (Вільня, 1619) у аўтарскім перакладзе на польскую мову з прысвячэннем земскаму падскарбію, пісару і лоўчаму ВКЛ К.Нарушэвічу, ліст да Львоўскага брацтва (ад 21.1.1619), прадмова і пасляслоўе да «Вертаграда душэўнага...» Фікарыя Святагорца (Вільня, 1620). Л. прыпісваюцца некаторыя творы, што не захаваліся: перакладныя з грэчаскай мовы «Выклад малітвы «Ойча наш» Іаана Златавуста» (Вільня, 1620), тлумачэнне Хрызастома на 14-ы псалом, «Вертаград душэўны» Фікарыя Святагорца (1620), «Обличение на унию» (1608).

*Тв.*: Послание Виленского православного братства Львовскому ставропигиальному братству... от 21 января 1619 г. // Акты Западной России. СПб., 1851. Т. 4; Послание настоятеля Виленского Свято-Духового монастыря и братства Леонтия Карповича к Афонским подвижникам «Чесному священноинокови господину отцю Кирилу (Пафнутию, Елисею)» // Литовские епархиальные ведомости. 1896. № 26; У кн.: Українска поезія: Конец XVI—поч. XVII ст. Київ, 1978; С а в е р ч а н к а І.В. Старажытная паэзія Беларусі (XVI—першая палова XVII ст.). Мн., 1992. С. 150—164, 224—250; Анталогія даўняй беларускай літаратуры. XI—першая палова XVIII стагоддзя. Мн., 2003.

*Літ.*: М а с л о в С.И. Казанье Мелетия Смотрицкого на честный погреб о. Леонтия Карповича. Киев, 1908; Л е в ш у н Л.В. Леонтий Карпович: Жизнь и творчество. Мн., 2001.

***Любоў Ляўшун.***

**Лядаўскі Дабравешчанскі манастыр.** Заснаваны як базыльянскі ў 1732 Тэрэзай Тышкевіч з дзецьмі ў мяст. Ляды Менскага пав. (цяпер Смалявіцкі р-н). Паўторныя фундацыі зроблены мечнікам ВКЛ І.Завішам і яго жонкай Марцыбелай з роду Агінскіх. Мураваная царква ў стылі позняга барока ўзведзена да 1794, калі была асвечана. Мураваны аднапавярховы Г-падобны жылы корпус пабудаваны ў 1811. Архітэкта-

нічна царква ўяўляе сабой 3-нефавую «схаваную» базіліку з бязвежавым гал. фасадам і прамавугольным прэсбітэрыем з сіметрычна прыбудаванымі сакрыстыямі па баках. Больш нізкія і вузкія бакавыя нефы накрыты агульным дахам з цэнтр. нефам і не забяспечваюць яго верхняга асвятлення. Па бакавых фасадах дахі пасярэдзіне раскрапаваны трохвугольнымі франтонамі, што падкрэслівае грэчаскі крыж у вянчаючых масах збудавання. Гал. фасад завершаны сціплым трохвугольным атыкавым франтонам, які з дапамогай масіўных барочных валют распластаны на ўсю шырыню храма. Грабяні валют увенчвалі драўляныя дэкаратыўныя вазы, а фасад быў ілюзорна размаляваны («распісаны на оптыку»). Для аптычнай карэкціроўкі некалькі груваснага фасада ён падзелены па вертыкалі пілястрамі стылізаванага іанічнага ордэра на 5 частак незалежна ад канструкцыйнай будовы храма. Завышаная манументальнасць і пэўная сухаватасць ордэрнай пластыкі надаюць вонкаваму абліччу збудавання рысы барочнага класіцызму. Водгукі барочнай стылістыкі значна больш адчувальныя ў арганізацыі інтэр'ера царквы. Апорныя слупы раскрапаваны слаістымі пілястрамі. Тарцы бакавых нефаў таксама «распісаны на оптыку» ў тэхніцы грызайль, што стварае ілюзорную глыбінна-прастораву перспектыву.



Царква **Лядаўскага Дабравешчанскага манастыра**.

Нартэкс адсутнічае, аднак над уваходам размешчаны невял. арганныя хоры з хвалістым абрысам парапета, на якія вядзе лесвіца ў тоўшчы фасаднай сцяны. Царква — найб. позні сакральны помнік з прыкметамі уніяцкай семантыкі на Беларусі. З 1838 правасл. храм.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Монастыри XVIII в. с безбашенными храмами в Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1985. Вып. 33; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура бел. барока. Мн., 2001.

***Тамара Габрусь.***

**Ляйбовіч** Гірш (Гершка, Гершак, Гіршак; ?—пасля 1786), беларускі гравёр і ювелір яўрэйскага паходжання. Прыбыў на службу да князёў Радзівілаў з г. Сакаль каля Львова разам са сваім бацькам, гравёрам Лейбам Жыскялёвічам. Жыў, відаць, у Міры. Паводле кантракта ад 16.10.1747, падпісанага ў Мірскім замку, Л. з бацькам пачалі працу над 90 партрэтамі для альбома князёў Радзівілаў, якую скончылі ў 1756. Па-за кантрактам у 1754—56 выканалі яшчэ 15 партрэтаў. Альбом «Выявы роду князёў Радзівілаў» — выдатны помнік бел. графікі. Уключае 165 партрэтаў. Першы партрэт (Вайшунда) і апошні (К.С.Радзівіла Пане Каханку) маюць подпісы Л. Альбом ствараўся ў 3 этапы рознымі майстрамі на працягу 1745—68. У 1745 невядомыя гравёры выканалі 18 партрэтаў, а гравёры з зах.-ўкр. г. Жоўква (відаць, Лейзер, і інш.) — 16 аркушаў. У 1758 альбом выйшаў накладам 50 экз. у Нясвіжскай друкарні. Паўторна выдадзены ў Пецярбургу з арыгінальных дошак у 19 ст. У мастацкім выкананні альбома вылучаюцца 3 стылі. 1-ы вызначаецца дасканаласцю і адносіцца да 1745. 2-і і 3-і адносяцца да часу працы над альбомам Л. і яго бацькі і адпавядаюць манерам мастакоў, якія рыхтавалі эскізы партрэтаў для гравіравання. Вядома пра 15 «адтушаваных» для гэтай мэты партрэтах 1747 прыдворнага мастака Радзівілаў Ф.К.Д.Гескага. Прыгатаваныя ім партрэты адрозніваюцца рэльефным рысункам з моцнымі кантрастамі святла і ценю. Сярод інш. графічных твораў Л. гравюра «Катафалк Ганны з Сангушкаў Радзівіл», які быў устаноўлены ў езуіцкім касцёле ў Нясвіжы паводле праекта М.Педэцы (1747—50); ілюстрацыі ў кн. «Казанні і прамовы на



Г.**Ляйбовіч**. Партрэт Вайшунда.

пахаванні Ганны з Сангушкаў Радзівіл» (Вільня, 1750); 3 варыянты экслібрыса Радзівілаў для нясвіжскай б-кі; герб Радзівілаў у кн. «Артыкулы ваенныя» (Нясвіж, 1754); карта Літоўскай правінцыі бернардзінцаў з выявамі кляштараў і постацямі святых Бярнарда і Казіміра. Апошні задакументаваны твор Л. — дэкарыраванне саркафагаў Радзівілаў у крыпце езуіцкага касцёла ў Нясвіжы. Драўляныя труны былі абабіты меднымі гравіраванымі дошкамі з надпісамі і арнаментам.

*Літ.*: Widacka H. Działalność Hirsza Leybowicza i innych rytowników na dworze nieświeskim Michała Kazimierza Radziwiłła «Rybieńki» w świetle badań archiwalnych // Bielutyn historii sztuki. 1977. № 1; Баравы Р., Якімовіч Ю. Каштоўны дакумент па гісторыі беларускай графікі і архітэктуры XVIII ст. // Помнікі культуры. Мн., 1985; Баженова О.Д. Город Мир и альбом фамильных портретов князей Радзивиллов 1758 года издания // Мірскі замак і замкі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы: Праблемы рэстаўрацыі і музеефікацыі. Мн., 2006.

***Вольга Бажэнава.***

**Лялевель** (Lelewel) Іаахім (22.3.1786, Варшава—29.5.1861), гісторык, грамадскі дзеяч. Д-р (1820), праф. (1821). Яго маці Е.Шалюта паходзіла з Беларусі. У 1804—08 вучыўся ў Віленскім ун-це, дзе ў 1815—18 і 1821—24

выкладаў, узначальваў кафедру ўсеагульнай гісторыі. Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў час. «Tygodnik Wileński» («Віленскі штотыднёвік»). У 1824 пасля раскрыцця тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў як іх ідэйны натхняльнік звольнены з пасады, пераехаў у Варшаву. У 1830—31 дэпутат сейма. У час паўстання 1830—31 старшыня Патрыятычнага таварыства; уваходзіў у склад Часовага ўрада, займаў у ім найб. левыя пазіцыі. З 1831 у Парыжы, дзе арганізаваў Нац. польскі камітэт. За рэв. дзейнасць высланы з Францыі. З 1833 жыў у Бруселі. Памёр у Парыжы, у 1929 астанкі Л. перапахаваны ў Вільні. Заснавальнік і гал. прадстаўнік рамантычнай школы ў польскай гістарыяграфіі. Даледаваў гісторыю Польшчы, Беларусі і інш. слав. краін. Незалежна ад Цьеры і Гізо прыйшоў да разумення гісторыі як барацьбы класаў. Паслядоўна падкрэсліваў творчую ролю нар. мас у гісторыі. На яго думку, першапачатковым грамадскім ладам Польшчы (як і ўсіх слав. краін) з'яўлялася сельская абшчына, якая была знішчана заваёўнікамі, якія ператварыліся ў пануючы клас і ўсталявалі панаванне буйных феадалаў. Працы Л. вызначаюцца антыфеад. накіраванасцю, варожасцю да нацыяналізму, клерыкалізму, выкрываюць і асуджаюць нац. прыгнёт бел. і укр. народаў у Рэчы Паспалітай. У «Гісторыі Літвы і Русі да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года» («Dzieje Litwy i Rusi aż do unii z Polską w Lublinie», 1839) побач з Вял. Ноўгарадам паставіў сярэдневяковую «рэспубліку» Полацк, пісаў пра ўсх.-слав. культуру, пра вял. значэнне старабел. мовы ў ВКЛ. Разам з праф. Віленскага ун-та І.*Даніловічам* вывучаў помнікі бел.-літ. права, у 1841 у Познані яны ўпершыню выдалі Статут ВКЛ 1529 на старабел. мове (лацініцай). Супрацоўнічаў з бел. славістам М.К.Бабpоўскім. У 1821 І.І.*Грыгаровіч* пераклаў на рус. мову ўрывак з працы Л. пра польскага гісторыка М.Халеву. І.Савініч перакладаў на рус. мову «Гісторыю Польшчы» Л. Пад уплывам Л. фарміравалася пакаленне рэвалюцыянераў 1860-х г. на чале з К.Каліноўскім і З.Серакоўскім.

*Тв.*: Dzieła. T. 1—8, 10. Warszawa, 1957—72.



Герб **«Ляліва»**.

*Літ.*: Hleb-Koszańska H., Kotwiczówna M. Bibliografia utworów Joachima Lelewela. Wrocław, 1952; Басевич А.М. Иоахим Лелевель. М., 1961; Кеневич С. Лелевель: Пер. з пол. М., 1970; Попков Б.С. Польский ученый и революционер Иоахим Лелевель: Рус. проблематика и контакты. М., 1974; Кісялёў Г. Ён клікаў да свабоды // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982; Kieniewicz S. Joachim Lelewel. Warszawa, 1990.

***Дзмітрый Караў.***

**«Ляліва»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 350 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Абрамовічы, Аляхновічы, Глябовічы, Дарагастайскія, Забярэзінскія, Манівідавічы, Сяняўскія, Тарноўскія, Тышкевічы, Чапскія. У блакітным полі залаты маладзік рагамі ўгору, над ім залатая 6-прамянёвая зорка; клейнод — над прылбіцай з каронай на паўлінавых пёрах такія ж маладзік і зорка. Існуюць варыянты герба: з чырвоным полем; са стралой, якая выходзіць угору з зоркі, клейнод — 3 страусавыя пёры; з маладзіком рагамі ўніз, пад ім зорка. Вядомы з пач. 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

***Валерый Пазднякоў.***

**лямант** (ад лац. lamenta плач), жанр старажытнай беларускай літаратуры, празаічны або вершаваны твор элегічнага, панегірычна-дыдактычнага характару, напісаны з выпадку смерці якой-небудзь значнай асобы, а таксама вялікага асабістага ці грамадскага няшчасця. У Л. нярэдка закраналіся важныя сац.-паліт. і нац. праблемы часу, выказваліся надзённыя думкі і імкненні, яны мелі выразную выхаваўча-асветную накіраванасць і выконвалі значную ідэйна-публіцыстычную ролю ў жыцці бел. грамадства эпохі феадалізму. Вытокі жанру ў нар. галашэннях-плачах, антычных жалобных песнях-трэнасах, пахавальных прамовах. З імі генетычна звязаны і блізкія паводле агульнага настрою, накіраванасці і прызначэння эпітафіі і некралогі.

Найб. ранні твор гэтага жанру, напісаны на Беларусі, — ананімная вершаваная паэма на польскай мове «Лямант на смерць Рыгора Осціка» (каля 1580), найб. выдатныя — «Трэнас» М.Сматрыцкага (1610), які пераклікаецца з біблейскім «Плачам Іераміі», ананімны «*Лямант на смерць Лявона Карповіча*» (1620). Панегірычна-дыдактычныя Л. нагадваюць і пахавальныя прамовы-некралогі «Казанне на пахаванне князя В.Галіцына» Лявонція Карповіча (1619) і «Казанье на честный погреб... Леонтия Карповича» Сматрыцкага (1620). Як мастацкі прыём (плач Багародзіцы) надзвычай удала і ярка выкарыстаны ў перакладной аповесці «*Страсці Хрыстовы*».

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Лямант на смерць Лявонцыі Карповіча»**, «Лямент у света убогих на жалосное преставление святобливого... отца Леонтия Карповича», твор беларускай літаратуры 17 ст., па-



ЛЯМЕНТЪ

ЛЕОНТІЯ КАРПОВИЧА,

АРХІМАНДРИТА ѠБЩІЯ

**«Лямант на смерць Лявонція Карповіча»**. Вільня. 1620. Тытульны ліст.

эма, напісаная невядомым аўтарам і апублікаваная Віленскай брацкай друкарняй у канцы 1620. Прысвечана памяці царк.-рэліг. дзеяча і пісьменніка-палеміста эпохі контррэфармацыі *Лявонція* Карповіча. Складаецца з «ляманту»-плачу па нябожчыку і маналога-суцяшэння ад імя Лявонція правасл. насельніцтву Вільні, дзе ён жыў і працаваў. Твор элегічна-панегірычны. Аплакванне смерці Лявонція перарастае ў паэме на ўслаўленне яго як чалавека высокіх маральных якасцей, дзейнага, мужнага і самаахвярнага змагара за веру сваіх продкаў. Аўтар падае вобраз гал. героя ў духу жыційнай л-ры і ўзнімае яго да ўзроўню ідэальнага хрысціянскага святога. Заключная частка «Ляманту» мае выразны публіцыстычна-дыдактычны характар: паэт ад імя нябожчыка заклікае жыць сумленна і высакародна, свята берагчы нац.-рэліг. традыцыі свайго народа. Паводле агульнай накіраванасці паэма была вельмі надзённай, сугучнай часу — перыяду цяжкай барацьбы бел. народа з феад.-каталіцкай рэакцыяй, што набліжае яе да твораў *палемічнай літаратуры*. Твор вызначаецца глыбокай эмацыянальнасцю і пранікнёным лірызмам, яркай, паэтычна-вобразнай мовай. Яму ўласцівы некаторыя рысы барока: кантрастнасць (спалучэнне ўзвышанага і будзённага, кніжнага стылю з жывой бел. мовай), вобразы антычнай і біблейскай міфалогіі, тыпова барочныя эпітэты, метафары і параўнанні. Напісана 13-складовым сілабічным вершам з выразнай тэндэнцыяй да танізацыі, якая выяўляецца ў прыкметнай харэічнай яго аснове.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Лянге** (Lange, Langius) Ян (?, г. Ключбарк, Сілезія—1656?), лютэранскі лацінамоўны паэт і кнігавыдавец ВКЛ. Каля 1646 пераняў ад Я.*Кміты Любчанскую друкарню* і тытул друкара кн. Я.Радзівіла. Сярод найб. значных выданняў Л. — творы віленскіх лютэранскіх пастараў А.Шонфлісіуша і Я.Маліны. Супрацоўнічаў з віленскім гравёрам К.*Гётке*. Выдаваў календары (1653/54—1656/57). Канец дзейнасці Л. звязаны з эпідэміяй і ваенным спусташэннем Любчы ў 1656. Лацінскія вершы Л. змешчаны ў складзе выдадзеных у Любчы твораў віленскіх лютэранскіх аўтараў: у кнігах Шонфлісіуша «Вечная весялосць» (1646) і «Малітва Давіда» (1648), Маліны «Сцяжок трыумфальны» (1654).

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959. S. 141—142.

***Мікалай Пачкаеў.***

**Лянкевіч** Габрыель (15.3.1722, каля Полацка—10.11.1798), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, архітэктар. З 1745 чл. Ордэна езуітаў. У 1762—65 вучыўся ў Рымскім езуіцкім калегіуме. У 1765—68 выкладаў філасофію і матэматыку ў Нясвіжы, у 1768—73 —архітэктуру ў Полацку, там жа прэфект будоўлі. Пасля выдання ў 1773 папскай булы аб скасаванні ордэна разам з С.Чарневічам дамогся захавання дзейнасці езуітаў у межах Рас. імперыі і адкрыцця ў 1780 у Полацку навіцыята (установа для падрыхтоўкі да ўступлення ў члены ордэна). У 1782—86 рэктар Полацкага калегіума. У 1785—98 — генеральны вікарый (выконваючы абавязкі генерала) ордэна езуітаў. У 1787 адчыніў пры Полацкім калегіуме друкарню. Аўтар шэрагу архітэктурных праектаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**лясні́чы**, службовая асоба мясцовых улад у ВКЛ. Наглядаў за велікакняжацкімі лясамі і паляўнічымі ўгоддзямі ў межах пэўнага лясніцтва. Падпарадкоўваўся *лоўчаму*.

**Ляснянская бітва 1708.** Адбылася 9 кастр. каля в. Лясная ў Рэчыцкім пав. (цяпер у Слаўгарадскім р-не) у ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* паміж рас. войскамі (12 тыс. чал., 30 гармат) на чале з *Пятром I* і А.Д.*Меншыкавым* і шведскім корпусам ген. А.Левенгаўпта (16 тыс. чал., 17 гармат), якія рухаўся з Інфлянтаў з вял. абозам (7 тыс. павозак з боепрыпасамі і харчам) на злучэнне з асн. сіламі *Карла XII*. Нагнаныя каля Лясной рас. войскам шведы занялі пазіцыю на ПнЗ ад вёскі, у тыле зрабілі ўмацаванне з павозак. Палову абозу і 3 тыс. чал. Левенгаўпт накіраваў да Прапойска. Бітва працягвалася 5 гадзін з пераменным поспехам, аднак шведы вымушаны былі пакінуць асн. пазіцыю і адступіць. З падыходам рас. атрада ген. Р.Х.Баўра (4 тыс. чал.) з Крычава бітва аднавілася. Прыцемкі спынілі яе, і Левенгаўпт, пакінуўшы параненых, артылерыю і абоз, непрыкметна адышоў да Прапойска. Каб адарвацца ад пагоні, Левенгаўпт кінуў у Прапойску астатнюю частку абозу і адступіў уздоўж Сажа на Пд. На злучэнне з Карлам XII прарвалася каля 7 тыс. чал. У бітве шведы страцілі больш за 8 тыс. чал., у т.л. некалькі соцень палоннымі, артылерыю і абоз. Страты рас. войск склалі каля 4 тыс. чал. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 26.



Медаль у гонар **Ляснянскай бітвы 1708**. Медальер Ц.Іваноў.

*Літ.*: Капыскі З., Клок Л., Мігулін І. Бітва пад Лясной у 1708 г. Мн., 1958.

***Уладзімір Пашкевіч.***

**Ляўко** Вольга Мікалаеўна (н. 21.5.1947, в. Астравок Капыльскага р-на), беларускі археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (2000). Скончыла БДУ (1972). З 1970 працуе ў Ін-це гісторыі НАН Беларусі, з 2001 вядучы навук. супрацоўнік, з 2005 заг. аддзела зберажэння і выкарыстання археалагічнай спадчыны і кіраўнік Цэнтра гісторыі даіндустрыяльнага грамадства. Адначасова з 2004 праф. Магілёўскага ун-та. Вывучае этна- і культурагенез славян, фарміраванне і развіццё раннедзярж. структур, адм.-тэр. утварэнняў 9—18 ст. на тэр. Беларусі. Упершыню ў Беларусі з 1976 пачала археалагічныя даследаванні культ. пласта гарадоў 14—18 ст. Вывучае гарады, замкі і манастыры паўн.-ўсх. Беларусі: Віцебск, Гарадок, Друцк, Езярышча, Копысь, Оршу, Талачын, Шклоў і інш. Адзін з аўтараў кніг «Гісторыя Беларусі» (т. 1, 2000), «Друцк старажытны» (2000), «Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV—XVIII стст.» (2001).

*Тв.*: Витебские изразцы XIV—XVIII вв. Мн., 1981; Витебск XIV—XVIII вв.: (стратиграфия, хронология, соц.-ист. топография и технология производства). Мн., 1984; Торговые связи Витебска в X—XVIII вв. Мн., 1989; Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии. Мн., 1992; Средневековая Орша и ее округа: (Ист.-археол. очерк). Орша, 1993; Культовые памятники Орши к. XVI—XVIII вв.: (ист.-архе-

ол. исследование). Орша, 1996; Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие. Мн., 2004.

**Ляўшун** Любоў Віктараўна (н. 30.11.1964, г. Віцебск), беларускі літаратуразнавец. Канд. філалагічных навук (1992). Скончыла БДУ (1988), аспірантуру Ін-та сусветнай л-ры імя М.Горкага АН СССР у Маскве (1991). Старшы навук. супрацоўнік Ін-та л-ры імя Я.Купалы НАН Беларусі, дацэнт Тэалагічнага ін-та імя св. Кірыла і Мяфодзія БДУ. Займаецца тэарэтыка-літаратуразнаўчымі даследаваннямі ў галіне ўсх.-слав. медыявістыкі. Складальнік збораў твораў Я.Ф.Карскага «Беларусы» (2001) і А.А.Мельнікава «З неапублікаванай спадчыны» (2005), адзін са складальнікаў «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры. XI—першая палова XVIII стагоддзя» (2003).

*Тв.*: Очерки истории восточнославянской средневековой книжности: эволюция творческих методов. Мн., 2000; История восточнославянского книжного слова XI—XVII веков. Мн., 2001; Леонтий Карпович: Жизнь и творчество. Мн., 2001.

**Ляхавіцкі замак**. Існаваў у 16—1-й пал. 17 ст. ў г. *Ляхавічы*. Мураваны замак пабудаваны ў канцы 16 ст. гетманам Я.К.Хадкевічам замест невял. драўлянага замка. Займаў узвышэнне на левым беразе р. Ведзьма. Прамавугольны ў плане (175 x 220 м), абкружаны ровам, які жывіла вадой падпёртая плацінай рака. Земляны вал замка на кожным вугле пераходзіў у вял. бастыён развітой канфігурацыі з брустверамі, байніцамі для стралкоў і артылерыі. Валы і бастыёны былі абмураваны каменем і цэглай. Па цэнтры бастыёнаў былі высокія кавальеры — узнятыя над бастыёнамі мураваныя ўмацаванні з ахоўнымі парапетамі, што дазваляла страляць па праціўніку цераз бастыён, не баючыся трапіць па сваіх. Пры кожным бастыёне быў казамат, дзе захоўвалі зброю, ядры, порах і амуніцыю. Падземныя мураваныя хады ўнутры валоў дазвалялі скрытна пераходзіць з бастыёна на бастыён. Драўляны мост на палях (апошняе яго звяно было пад'ёмным), перакінуты цераз вадзяны роў (да 50 м) вёў у мураваную 4-ярусную браму замка з праездам у 1-м ярусе. На 2-м ярусе брамы размяшчаліся механізм пад'ёму моста, які «ўзводзіўся» двума ланцугамі, і пад'ёмнік ахоўнай жалезнай засцерагальнай краты — герсы. Тут жа былі байніцы для ручной агнястрэльнай зброі. 3-і ярус меў выгляд баявой пляцоўкі, заслоненай парапетам з зубцамі, адкуль прастрэльвалі найбліжэйшыя подступы да брамы. 4-ы паверх — фактычна стройная звужаная вежачка, дзе былі гадзіннік, назіральны вартавы пост і «ратны звон», у які званілі ў выпадку небяспекі. Вянчала браму «банька» з жалезным флюгерам. Насупраць уваходу стаяў мураваны 2-павярховы П-падобны ў плане палац, крыты дахоўкай. Будынак амаль цалкам быў закрыты ад абстрэлаў высокімі курцінамі-вежамі і бастыёнамі. На замкавым двары, злева ад уваходнай брамы, размяшчаўся 1-павярховы мураваны арсенал, справа — патаемны ход замка, які выкарыстоўвалі для раптоўных вылазак гарнізона і ўдараў па праціўніку з тылу. Уздоўж курцін і на дзядзінцы шчыльна стаялі драўляныя будынкі службаў і казармаў. Меліся студні. Л.з. адносіўся да адной з мадыфікацый новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы, пашыранай у Еўропе ў канцы 16 ст. Ён лічыўся самым моцным з падобных збудаванняў ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Зімой 1595—96 замак беспаспяхова штурмавалі казацкія загоны С.Налівайкі і М.Шавулы. У 1648—54 Ляхавічы тройчы беспаспяхова асаджалі паўстанцы-сяляне і ўкр. казакі. У ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 адбылася *Ляхавіч абарона 1660*. У час Паўн. вайны 1700—21 шведы разбурылі ўмацаванні замка. На працягу 18 ст. канчаткова зруйнаваны.



**Ляхавіцкі замак** у 1660. Фрагмент гравюры.

Археалагічныя даследаванні Л.з. праводзіў М.М.Чарняўскі (1986).

*Літ.*: Ткачоў М.А., Цярохін С.Ф. Ляхавіцкая фартэцыя // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. №1; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Ляхавіцкага р-на. Мн., 1989. С. 77—81.

***Міхась Ткачоў.***

**Ляхавіч абарона 1660**. Праводзілася рас. войскамі на чале з ваяводам кн. І.А.*Хаванскім* у ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Вясной 1660 войскі Хаванскага, якія адыходзілі з-пад Берасця, аблажылі *Ляхавіцкі замак*. 20 і 23 сак. ваявода двойчы пасылаў на перагаворы дэлегацыю з дваран і палкоўнікаў, каб ляхавіцкія сядзельцы «горад Ляхавічы без крыві здалі». Аднак камендант М.У.Юдзіцкі з гарнізонам і жыхары горада і ваколіц на перагаворы не пайшлі. Пасля няўдалых спроб перагавораў абодва бакі пачалі ўзмоцнена рыхтавацца да штурму. Прафесіянальных войск у замку было мала. Гэта ў асн. была шляхецкая конніца ў 200 шабель, якая падзялялася на 5 харугваў: палкоўніка С.Аскеркі, харужых Ю.Корсака, Т.Храпавіцкага, Гадлеўскага і Кошкі. Другі конны полк у 390 шабель (6 харугваў) узначальваў Ф.Слонскі. Асн. масу абаронцаў (каля 3,5 тыс. чал.) складалі жыхары горада і «мужики сбежь». У замку было 37 гармат калібрам 20—30 фунтаў, шмат пораху і ядраў, запас хлеба на год аблогі. Абаронцам процістаяла значнае войска: па 2 Пскоўскія і Наўгародскія прыказы стральцоў агульнай колькасцю 2 тыс. чал. Кожны прыказ падзяляўся на 10 харугваў па 50 чал. Былі таксама 3 рэйтарскія палкі (1,8 тыс. чал.), 4 палкі пяхоты «перакідчыкаў» (2082 чал.). Пазней да аблогі далучана харугва ў 100 сялян. Усяго ў аблозе і штурмах Л.з. ў сак. 1660 удзельнічала 7-тысячнае войска. 26.3.1660 за паўгадзіны да світання пачаўся штурм. Пасля няўдалага штурму паміж праціўнікамі завязалася артылерыйская дуэль. Замкавая артылерыя, якая не мела недахопу ў ядрах і пораху, вяла бамбардзіроўку вайсковых табараў асаджаючых. У канцы мая пад Ляхавічамі стаяла армія больш за 11 тыс. чал. На падыходзе былі яшчэ 2 тысячы. Частку войск Хаванскі паслаў на аблогу Нясвіжа, а з астатнімі пачаў рыхтавацца да генеральнага штурму Ляхавіцкага зам-

ка, які адбыўся 24.5.1660. Паводле дакументаў, агульная страта войск ваяводы склала каля 2 тыс. чалавек. Але над арміяй Хаванскага навісла небяспека: моцная групоўка шляхецкага войска Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам П.Я.Сапегі, С.Чарнецкага, А.Г.Палубінскага і С.Кміціча ішла на выручку Ляхавіцкаму замку. Хаванскі з большай часткай свайго войска рушыў ёй насустрач. Адбылася *Палонкаўская бітва 1660*, у якой Хаванскі пацярпеў паражэнне і стаў спешна адступаць да Полацка. Рэшткі яго войск пад Ляхавічамі знялі аблогу і, кінуўшы абоз, рушылі следам.

***Міхась Ткачоў.***



**Ляхавіч абарона 1660**. Гравюра.

**Ляхавічы** (цяпер горад, цэнтр Ляхавіцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Навагародскім пав., на р. Ведзьма. У крыніцах вядомы з 15 ст. як цэнтр Ляхавіцкай вол. (маёнтка). У 1-й пал. 16 ст. належалі Гаштольдам. З 1551 уладанне вял. кн. Жыгімонта Аўгуста. З 1572 уладанне Я.Г.Хадкевіча і яго нашчадкаў, якія з канца 16 ст. сталі называцца графамі «на Ляхавічах». У канцы 16 ст. пабудаваны *Ляхавіцкі замак*. Зімой 1595—96 замак беспаспяхова штурмавалі казацкія загоны С.Налівайкі і М.Шавулы. У 1648—54 Ляхавічы тройчы беспаспяхова асаджалі паўстанцы-сяляне і ўкр. казакі. У 1635 праз дынастычны шлюб Л. перайшлі да Сапегаў. У 1636 у Л. 215 дымоў. У разгар *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* (канец жн.—пач. вер. 1655) войскі рас. ваяводы А.М.Трубяцкога спалілі пасады Л. Вясной 1660 адбылася *Ляхавіч абарона 1660*. У час *Паўночнай вайны 1700—21* шведскі кароль Карл XII загадаў адкінуць рас. войскі Пятра I ад Ляхавіч і паслаў туды атрад палкоўніка Траўтфетэра. Аблога Л.з. зацягнулася на месяцы. У сак. 1706 на дапамогу Траўтфетэру прыйшоў паўтаратысячны атрад конніцы барона Кройца. Толькі 9.5.1706 пасля амаль паўгадавой аблогі, калі скончыліся харчы і порах, гарнізон з 1360 казакоў пасля працяглага штурму вымушаны быў здаць замак. Шведы разбурылі ўмацаванні замка і фарны касцёл. У 1709 замак з рас. гарнізонам двойчы быў у аблозе войск караля Станіслава Ляшчынскага. Падтрыманы 2-тысячным войскам Пятра I, сюды ўвайшоў атрад Р.А.Агінскага. 12.4.1709, пасля кароткага бою з войскам саюзніка Карла XII А.Сапегі, Агінскі вымушаны быў адступіць. Да 1775 Л. з замкам належалі віленскаму біскупу І.Масальскаму, пакуль сойм Рэчы Паспалітай не пераверў горад ва ўласнасць дзяржавы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Ляхавіцкага р-на. Мн., 1989.

**ляхі**, старажытная назва палякаў усходнімі славянамі. Вядома з 11 ст. Паходзіць ад стараж.-слав. этноніма «лендзяне» (ад слова «ляда» — неапрацаванае поле), які сустракаецца ў крыніцах 9—10 ст. Даследчыкі лакалізуюць гэту племянную групоўку на тэр. Польшчы ў басейне Варты і атаясамліваюць іх з польскімі палянамі (ад іх паходзіць этнонім «палякі») або змяшчаюць іх на прабабярэжжы верхняй Віслы ці на Валыні. У сярэдневяковай Беларусі Л. называлі жыхароў Польшчы, перасяленцаў з польскіх зямель і жыхароў Беларусі, нейкім чынам звязаных з Польшчай (гандляроў і інш.); узнік і адпаведны антрапонім. З усх.-слав. моў тэрмін трапіў да літоўцаў («паляк» палітоўску — lenkas) і венграў (lengyel), у форме «лехіты» — да палякаў, дзе яго бытаванню паспрыяла легенда пра родапачынальніка палякаў Леха. Ад этноніма або антрапоніма «Л.» паходзяць назвы вёсак у Вілейскім, Віцебскім, Мінскім, Нясвіжскім, Пружанскім, Ушацкім, Чэрыкаўскім і інш. раёнах.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ляцкія**, шляхецкі род уласнага герба «Цмок». Найб. вядомыя:

Іван Васілевіч (1480?—пасля 1542). Паходзіў ад маскоўскага баярына Андрэя Кабылы. Яго бацька Васіль Захаравіч Л.(Захар'ін), брат Юрыя Захаравіча — родапачынальніка дынастыі *Раманавых*, валодаў Ляцкім пагостам у Шалонскай пяціне (адсюль прозвішча). У 1516 удзельнічаў у аблозе Віцебска, у кастр. 1517 разам з Ф.В.Целяпнёвым-Абаленскім разбіў войска К.Астрожскага пад Апочкай, у 1522 кіраваў адбіццём ад Каломны крымскіх татараў. У 1526 узведзены ў чын акольнічага, у канцы 1526 пасол у ВКЛ, дамогся заключэння 28.2.1527 6-гадовага перамір'я. Пасля смерці Васіля III, мабыць, удзельнік групоўкі М.Глінскага, якая выступала за збліжэнне з ВКЛ і пашырэнне правоў рас. баярства на ўзор ВКЛ. Трапіў у апалу да рэгентшы А.Глінскай і яе фаварыта І.Ф.Целяпнёва-Абаленскага. З пачат-



кам *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* перабег на бок ВКЛ разам з сынам (Рыгорам?) і каломенскім ваяводам С.Ф.Бельскім (жн. 1534). Некаторы час быў у зняволенні, пасля служыў пры велікакняжацкім двары ў Вільні, атрымаў ад Жыгімонта I Старога маёнткі Высокі Двор у Троцкім пав. і Жалудок у Лідскім пав. Каля 1537 з ініцыятывы гданьскага сенатара І.Копе пачаў сумесную працу з гравёрам і картографам А.*Відам* па стварэнні карты Маскоўскай дзяржавы (гл. *Віда—Ляцкага карта*).

Т э а д о р (?—вер. 1611), унук (?) Івана Васілевіча. Ротмістр войска ВКЛ, пісар польны ў 1601—11. У маладосці вандраваў па Францыі, Германіі, Італіі, Мальце, Нідэрландах. Адзін з першых алхімікаў ВКЛ (у 1589 у Рыме спрабаваў ператварыць медзь у серабро). Удзельнік *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, Кірхгольмскай бітвы 1605*.

Я н А л ь ф о н с (?—1646), сын Тэадора. Кашталян менскі ў 1630—34, жамойцкі ў 1634—43, староста генеральны жамойцкі з 1643. Вучыўся ў Падуанскім ун-це, удзельнічаў у войнах са Швецыяй, Турцыяй, Расіяй.

Т э а д о р А л я к с а н д р (?—1683), сын Яна Альфонса. Падстолі ВКЛ з 1654.

*Літ.*: З и м и н А.А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV—первой трети XVI в. М., 1988; Г е р б е р ш т е й н С. Записки о Московии. М., 1988.

***Алесь Белы.***

**Ляшчынскі** Станіслаў (20.10.1677, г. Львоў—23.2.1766), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1704—09, 1733], гл. *Станіслаў* Ляшчынскі.





**магдэбургскае права**, гарадское права, якім кіраваліся гарады ВКЛ. Вызначала арганізацыю і прынцыпы дзейнасці гар. самакіравання. Паходзіць ад збору правоў г. Магдэбург 13 ст. Дзейнічала ў гарадах Усх. Германіі, Цэнтр. і Усх. Еўропы. На тэр. Польшчы М.п. актыўна ўводзіў кароль *Казімір III* Вялікі. Пад уплывам Польшчы пачало распаўсюджвацца ў ВКЛ. Тым не менш гэта быў самастойны працэс, і М.п. ВКЛ адрознівалася ад гар. права ў Магдэбургу і Польшчы. На арганізацыю гар. самакіравання паводле М.п. ўплывалі канкрэтныя ўмовы, што існавалі ў ВКЛ у цэлым і ў кожным з гарадоў у прыватнасці. Пры развіцці сеткі гарадоў з М.п. існавалі гарады-ўзоры як прыклады па арганізацыі сістэмы ўлады і справаводства. Для ВКЛ у канцы 14—1-й пал. 16 ст. такімі гарадамі былі Кракаў і Вільня, а з 2-й пал. 16 ст. — толькі Вільня. У якасці рэгіянальных гарадоў-узораў выступалі Берасце, Гародня, Трокі, Орша і інш. М.п. называлася таксама «майдэборскім», «нямецкім», «інфлянцкім», «тэўтонскім». У ВКЛ існавалі і разнавіднасці М.п. — *хэлмскае права* і сродскае права. Казімір III у Кракаўскім замку захоўваў рукапісны збор М.п. Ён быў надрукаваны па ініцыятыве караля Аляксандра Ягелончыка разам са Статутам Ласкага ў 1506 у Кракаве. Пасля выйшлі з друку зборнікі М.п. Б.*Граіцкага* (Кракаў, 1558) і П.*Шчэрбіча* (Львоў, 1581). Гэтыя зборнікі актыўна выкарыстоўвалі гарады ВКЛ з М.п.

У ВКЛ М.п. надавалася гар. паселішчу прывілеем вял. князя літоўскага (пасля 1569 — караля польскага і вял. князя літоўскага), у прыватных гарадах — прывілеем уладальніка ці па яго хадайніцтве вял. князем. М.п. надавалася як заахвочванне для лепшага парадку і развіцця горада і ўзнагарода мяшчан за іх заслугі. Першы прывілей на М.п. атрымала Вільня 22.3.1387. Пазбаўленне М.п. прымянялася як пакаранне за цяжкія правіннасці (Віцебск у 1623 — за забойства уніяцкага архіепіскапа І.Кунцэвіча, Дарагабуж у 1634 — за здачу горада без супраціўлення войскам непрыяцеля). Колькасць гарадоў ВКЛ, якія карысталіся М.п., дакладна не вызначана.

М.п. афармляла горад як самастойную адм. адзінку са сваімі атрыбутамі — тэрыторыяй, грамадзянствам, інстытутамі ўлады і суда, гербам, падатковай сістэмай і г.д. З увядзеннем М.п. мяшчане вызваляліся з-пад улады ваявод, стараст, дзяржаўцаў, уся ўлада ў горадзе пераходзіла да органаў гар. самакіравання. На тэр. горада адмянялася дзейнасць мясцовага права, замест якога ўводзіліся нормы М.п. Але не адмаўлялася правамернасць карыстання мясцовымі звычаямі, нормамі права, калі яны не супярэчылі М.п. У даход горада перадаваліся прыбыткі ад крам, ятак, васкабойняў, гасціных двароў, лазняў, важняў і інш. Мяшчане гарадоў з М.п. атрымлівалі эканам. льготы, вызваляліся ў межах свайго горада ад платы гандлёвых падаткаў, мернага і інш. У межах горада з М.п. маглі знаходзіцца дзярж., прыватныя і царкоўныя (касцельныя) землі, якія не падпадалі пад гар. уладу — *юрыдыкі*. Гарады вялі пастаянную барацьбу за ўключэнне пад сваю юрысдыкцыю тэрыторый і жыхароў юрыдык.

У аснове сістэмы самакіравання на аснове М.п. стаяла гар. абшчына, якая была калектыўным суб'ектам права. Яна вырашала найб. важныя пытанні гар. жыцця: прымала рашэнні, якія датычылі ўсіх мяшчан, горада ў цэлым, кантралявала дзейнасць органаў гар. кіравання. На чале сістэмы магдэбургскага самакіравання стаяў *войт*, а ў час яго адсутнасці ў горадзе яго намеснік — *лантвойт*. Непасрэднае кіраванне гар. справамі знаходзілася ў руках *бурмістраў*, *радцаў* і *лаўнікаў*, якія складалі *магістрат*. У Вільні, Берасці, Гародні, Дарагічыне, Навагародку, Полацку і некаторых інш. гарадах магістраты падзяляліся на правасл. (потым уніяцкую) і каталіцкую палавіну. Бурмістры і радцы стваралі *раду* горада , а лаўнікі — гар. лаву. На пасяджэннях магістрата і асабліва рады, якія праходзілі ў *ратушы*, маглі прысутнічаць *цэхмістры*. Абшчына штогод выбірала бурмістраў, радцаў і лаўнікаў, у некаторых гарадах мяшчане выбіралі войта і лантвойта. Права выбіраць войта паводле прывілеяў вял. князёў мелі Камянец (1503), Высокае (1527), Кобрын, Гарадзец, Пружаны (усе 1589), Пінск (1633), Лагішын (1669), Мазыр (1621) і інш. Пры ўступленні ў пасаду ўсе

прадстаўнікі гар. самакіравання прыносілі прысягу гораду. Дзейнасць магістрата ахоплівала ўсе бакі жыццядзейнасці. Ён выконваў прадстаўнічую, адм., фіскальную, распарадчую, судовую, натарыяльную і інш. функцыі. Органы самакіравання адказвалі за добраўпарадкаванне тэр. горада, збіралі і размяркоўвалі гар. падаткі, распараджаліся гар. маёмасцю, баранілі інтарэсы горада і яго грамадзян, вызначалі парадак гандлю, дзейнасці рамесных і гандлёвых аб'яднанняў (брацтваў, цэхаў), адказвалі за абарону горада і інш.

Нормы М.п. ў ВКЛ пры высокай ступені стабільнасці эвалюцыяніравалі. У 1776 рашэннем Варшаўскага сойма М.п. пазбаўлены дзярж. малыя гарады і мястэчкі Рэчы Паспалітай. У ВКЛ М.п. пакінута ў Берасці, Ваўкавыску, Вільні, Гародні, Коўне, Лідзе, Мазыры, Менску, Навагародку, Троках, Пінску. У прыватных гарадах лёс М.п. вызначалі ўласнікі гарадоў. 18.4.1791 Чатырохгадовы сойм 1788—92 прыняў закон «Аб вольных гарадах у Рэчы Паспалітай», які ўсе жыхары дзярж. гар. паселішчаў абвяшчаліся асабіста вольнымі з правам валодання нерухомай маёмасцю на правах прыватнай уласнасці. У працэсе рэалізацыі гэтага закона ў канцы 1791—92 Ашмяны, Барысаў, Браслаў, Векшні, Вількея, Воўпа, Геранёны, Жыжмары, Ліпнішкі, Пераброддзе, Прывалкі, Радашковічы, Узгор'е, Цырын, Шарашова і інш. гарады і мястэчкі атрымалі рэнавацыйныя прывілеі на М.п.

М.п. скасавана пасля далучэння ВКЛ да Рас. імперыі: у Магілёўскай і Пскоўскай губ. — у ліст. 1775, у Мінскай губ. — у маі 1795, у Слонімскай і Віленскай губ. — у снеж. 1795. Узамен уводзіліся нормы рас. Даравальнай граматы гарадам 1785.

*Літ.*: Владимирский-Буданов М.Ф. Немецкое право в Польше и Литве. СПб., 1868; Тарановский Ф.В. Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи: Историко-юридическое исследование. Варшава, 1897; Копысский З.Ю. Магдебургское право в городах Белоруссии (конец XV—первая половина XVII в.) //Сов. славяноведение. 1972. № 5; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Юргинис Ю.М. Судьба магдебургского права в литовских городах // История СССР. 1975. № 4; Сас П.М. Феодальные города Украины в конце XV—60-х годах XVI в. Киев, 1989; Стрэнкоўскі С.П. Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1997; Магдэбургскае права на Беларусі: Матэрыялы навук. канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю выдачы г. Мінску граматы на магдэбургскае права (Мінск, 26 сакавіка 1999). Мн., 1999; Rimša E. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės miestų antspaudai. Vilnius, 1999; Бардах Ю. Лад местаў на магдэбургскім праве ў Вялікім Княстве Літоўскім да паловы XVII ст. // Бардах Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002.

***Аляксандр Доўнар.***

Табліца

**Наданне гарадам ВКЛ магдэбургскага права (да сярэдзіны 18 ст.)**

На тэр. сучаснай Рэспублікі Беларусь

| | |
|---|---|
| Берасце | 1390 |
| Гародня | 1496 |
| Полацк | 1498 |
| Менск | 1499 |
| Поразава | Паміж 1496 і 1500 |
| Камянец | 1503 |
| Ваўкавыск | Да 1506 |
| Лінева | 1510 |
| Навагародак | 1511 |
| Слонім | 1531 |
| Ваганаў | 1565 |
| Дзісна | 1569 |
| Магілёў | 1577 |
| Мазыр | 1577 |
| Гарадная | 1579 |
| Пінск | 1581 |
| Нясвіж | 1586 |
| Гарадзец | 1589 |
| Кобрын | 1589 |
| Пружаны | 1589 |
| Ліда | 1590 |
| Любча | 1590 |
| Віцебск | 1597, 1641 |
| Друя | 1618 |
| Орша | 1620 |
| Лагішын | 1633 |
| Крычаў | 1633 |
| Бешанковічы | 1634 |
| Бялынічы | 1634 |
| Мсціслаў | 1634 |
| Талачын | 1634 |
| Чавусы | 1634 |
| Ружаны | 1637 |
| Астрына | 1641 |
| Чэрыкаў | 1641 |
| Дзівін | 1642 |
| Казімірава Слабада | 1643 |
| Мальча | 1645 |
| Ула | 1648 |
| Радунь | 1649 |
| Жыровічы | 1652 |
| Капыль | 1652 |
| Слуцк | 1652 |
| Гомель | 1670 |
| Візаны | 1693 |
| Баруны | 1705 |
| Стоўбцы | 1729 |
| Шклоў | 1755, 1762 |
| Ушачы | 1758 |
| Шчучын | 1761 |
| Бобр | 1762 |
| Стары Мядзел | 1762 |

На тэр. сучаснай Літоўскай Рэспублікі

| | |
|---|---|
| Вільня | 1387 |
| Трокі | Канец 14—пач. 15 ст. |
| Коўна | 1408 |
| Пуні | 1551 |
| Мерач | 1569 |
| Вішцінец | 1570 |
| Шкуды (Ёганесбург) | 1572 |
| Аліта | 1581 |
| Вялена | 1580 |
| Біржы | 1589 |
| Кейданы | 1590 |
| Вярбілава (Новая Воля) | 1593 |
| Лаздзеі | 1597 |
| Шаўлі | 2-я пал. 16 ст. |
| Крэцінга (Каральштад) | 1609 |
| Юрбарк | 1611 |
| Іонішкі | 1616 |
| Сімна | 1626 |
| Варні | 1635 |
| Новае Места (Уладзіславаў) | 1643 |
| Шаўдаў | 1654 |
| Ваўкавішкі | 1660 |
| Паланга | 1685 |
| Шаўлі | 1713 |
| Людвінава | 1719 |
| Любава | 1734 |

На тэр. сучаснай Рэспублікі Польшчы

| | |
|---|---|
| Бельск | 1430 |
| Сураж | 1440 |
| Бранск | 1493 |
| Дарагічын | 1498 |
| Мельнік | 1501 |
| Высокае | 1503 |
| Лосічы | 1505 |
| Боцькі | 1509 |
| Мілейчыцы | 1516 |
| Вогін | 1522 |

| | |
|---|---|
| Нараў | 1529 |
| Медзна | 1531 |
| Сямяцічы | 1542 |
| Ялаўцы | 1545 |
| Аўгустаў | 1557 |
| Васількаў | 1566 |
| Кнышын | 1568 |
| Ламазы | 1568 |
| Райгорад | 1568 |
| Крынкі | 1569 |
| Пяшчатка | 1569 |
| Філіпаў | 1570 |
| Прырослъ | 1576 |
| Новы Двор | 1578 |
| Ліпск | 1580 |
| Орля | 1634 |
| Яснёўка | 1642 |
| Бержнікі | 1679 |
| Славацічы | 1693 |
| Сувалкі | 1720 |

На тэр. сучаснай Расійскай Федэрацыі

| | |
|---|---|
| Смаленск | 1611 |
| Невель | 1623 |
| Рослаўль | 1623 |
| Себеж | 1623 |
| Белы | 1625 |
| Дарагабуж | 1625 |
| Красны | 1625 |
| Старадуб | 1625 |
| Мглін | 1626 |

На тэр. сучаснай Украіны

| | |
|---|---|
| Пераміль | 1420 |
| Луцк | 1432 |
| Крэменец | 1442 |
| Жытомір | 1444 |
| Смотрыч | 1448 |
| Кіеў | 1494—97 |
| Уладзімір | 1494 |
| Дубна | 1498 |
| Роўна | Канец 15 ст. |
| Літовіж | 1501 |
| Леўкаў | 1504 |
| Квасаў | 1513 |
| Дарагабуж | 1514 |
| Белеў | 1516 |
| Кузьмін | 1517 |
| Ковель | 1518 |
| Астрог | 1528 |
| Торчын | 1540 |
| Выжва | 1548 |
| Берасцечка | 1559 |
| Баброўцы | 1560 |
| Вішнявец | 1560 |
| Дарафеевічы | 1560 |
| Канстанцінаў | 1561 |
| Палішчэнцы | 1561 |
| Канеў | 1561 |
| Алыка | 1564 |
| Брацлаў | 1564 |
| Андрэева (Новы Вішнявец) | 1568 |
| Паповец | 1568 |

**Магіла** Пётр Сімяонавіч [1597—1647], мітрапаліт кіеўскі, гл. *Пётр II*.

**Магілёва аблога 1655**. Вялася войскамі ВКЛ у лют.—маі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У час контрнаступлення ў студз. 1655 войскі ВКЛ на чале з *Я.Радзівілам* і В.А.Гасеўскім аблажылі Новы Быхаў. Частка войска была накіравана пад Магілёў. У пач. 1655 у Магілёве налічвалася 4 тыс. казакоў і 1105 маскоўскіх ратных людзей. Былі значна палепшаны гар. ўмацаванні. Па загадзе цара Аляксея Міхайлавіча ў горад накіраваны 3 пяхотныя палкі і 400 казакоў на чале з кн. Ю.І.Рамаданаўскім. 13 лют. са Шклова ў Магілёў перакінута 1500 наёмнікаў палкоўніка Г.Фонштадэна. 12 лют. Радзівіл прывёў пад Магілёў свае асн. сілы. 13 лют. Радзівіл і Гасеўскі патрабавалі ад абаронцаў капітуляцыі. Камандаванне гарнізона адхіліла прапанову і, як паведамляў цару ваявода М.П.Ваейкаў, «все сопча до обороны и бою ударили... Выходя из города, на вылазке бились по 3 дня, и отбили у него, Родивила, из обозу с 50 возов с запасы». У ноч на 15 лют. становішча абаронцаў рэзка пагоршылася: палкоўнік Бел. казацкага палка К.*Паклонскі* выехаў з горада нібыта на бой супраць войск Радзівіла і «изменил с могилевскою и иных городов шляхтою, и с казаки, которые у него в полку были». На бок Радзівіла перайшло 400 чал., у т.л. частка магілёўскіх мяшчан. Яны прынялі ўдзел у штурме замка і ўнутр. вала Старога замка: «Февраля в 6 день, как приходили под Могилев гетманы Родивил и Гасевски и Богуслав Родивил с полскыми и литовскими людьми, и в то, государь, время могилевские мещане остались в большом валу с Родивилом, и к меншему валу и острогу к твоим государевым людям на приступ ходили и на вылазках билися вместе за одно с литовскими людьми». У час штурму абаронцы страцілі каля 1000 казакоў і больш за 300 маскоўскіх служылых людзей, аднак адбілі атаку і ўчынілі некалькі вылазак у адказ. Беспаспяхова скончыліся для войск Радзівіла начны штурм Старога горада і замка 28 лют., атакі, здзейсненыя пасля парахавых выбухаў у падкопах 18 сак. і 19 крас., і найб. цяжкі для абаронцаў прыступ 23 красавіка. Казакі наказнога гетмана І.*Залатарэнкі* на працягу ўсёй аблогі наносілі ўдары ў тыле радзівілаўскіх войск, знішчалі гарады і гарнізоны (Бабруйск, Каралеўская Слабада, Глуск). 27 крас. Залатарэнка накіраваў да Магілёва па Дняпры на чаўнах Нежынскі і Старадубскі палкі на чале са сваім братам В.*Залатарэнкам* і Ц.Анікеевым, а сам «пошел со всим товарыством» берагам. Даведаўшыся аб набліжэнні казакоў, Радзівіл пачаў 11 мая апошні штурм горада. Аднак і ён скончыўся беспаспяхова. У той жа дзень Радзівіл зняў аблогу, выпаліў пасады ў Новым горадзе і адышоў з войскам за Бярэзіну. Разам з ім з Магілёва сышла частка мяшчан. У выніку беспаспяховай аблогі былі сарваны наступальныя планы Радзівіла і спынена контрнаступленне войск ВКЛ.

*Літ.*: Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1. Могилев, 1882; Сапунов А. Витебская старина. Т. 4. Витебск, 1885; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889; Акты Московского государства. Т. 2. СПб., 1894; Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974. С. 66—75; Полное собрание русских летописей. Т. 35. М., 1980; Мелешко В.И. Могилев в XVI—середине XVII в. Мн., 1988. С. 242—254; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995. С. 34—39.

*Ігар Марзалюк.*

**Магілёў** (цяпер горад, цэнтр Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав., на р. Дняпро. Існуе шмат легенд і паданняў пра ўзнікненне горада. Адна з іх звязана з імем кн. Льва Данілавіча Могія (Магутны Леў), які нібыта пабудаваў у 1267 замак у сутоках рэк Дубровенка і Дняпро. Нар. паданне звязвае назву М. з імем асілка Машэкі, над магілай якога быў насыпаны вял. курган, названы «Магілай Льва», захавалася урочышча Машакоўка. Паводле «*Запісак ігумена Арэста*», у старажытнасці на месцы М. быў стан разбойнікаў (іх атамана звалі Магіла) і шматлікія магілы забітых імі людзей, каля якіх узнікла вёска Магілка. Славянскія паселішчы на тэр. М. вядомы з 9 ст. У 12 ст. існавалі паселішча на тэр. будучага Задубровенскага паса-

да і ўмацаванне на гары Магіла, дзе знойдзены багаты культурны пласт (рэшткі зброі, ювелірных упрыгожанняў, апрацаваных касцей, кераміка і інш.). У 13 ст. М. быў, відаць, цэнтрам феад. сядзібы-вотчыны і мог выконваць функцыі крэпасці. Знаходкі наканечнікаў-зрэзняў, характэрных для мангольскіх старажытнасцей, і пасечаных рубячай зброяй чалавечых касцей сведчаць, што М. быў узяты і спалены мангола-татарамі ў час набегу ў 1-й пал. 13 ст.

У пісьмовых крыніцах М. упершыню згадваецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.). У канцы 14 ст. горад належаў каралеве *Ядвізе*, у 1431— вял. кн. *Свідрыгайлу*. У 1481 «дано наместництво могилевское Митку Стародубцу». У 14—18 ст. М. — цэнтр *Магілёўскай воласці*. Каралеўскі бязмытны ліст (дакумент на права гандляваць без выплаты мыта) ад 4.4.1488 сведчыць, што ў 15 ст. М. быў гандл. цэнтрам і меў сваю мытню. У 1501 М. падараваны вял. княгіні *Алене Іванаўне*. У 1526 пабудаваны новы *Магілёўскі замак*. У 1561 М. атрымаў права на войтаўства (гар. самакіраванне), а ў 1577 — магдэбургскае права і герб (у блакітным полі мураваная вежа). Горад меў прывілей на 2 кірмашы на год. Па гасп. значэнні ў ВКЛ М. у 16 ст. займаў адно з першых месцаў пасля Вільні. Дакументы 2-й пал. 16 ст. называюць у М. каля 70 рамесных спецыяльнасцей. Рамеснікі аб'ядноўваліся ў цэхавыя арганізацыі па прафесійным прынцыпе, асобныя цэхі ахоплівалі некалькі роднасных рамесных спецыяльнасцей (у канцы 16 ст. было 12, у 1-й пал. 17 ст. — 17 цэхаў). Магілёўскія купцы гандлявалі з гарадамі Беларусі, з краінамі Прыбалтыкі, Польшчай, Расіяй, Чэхіяй. У 16 ст. М. шмат цярпеў у войнах Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у чэрв. 1581 быў цалкам знішчаны Задубровенскі пасад, спалена 100 дамоў у Пакроўскім пасадзе, але штурм Старога горада і замка скончыўся безвынікова. У 1595 у час *Налівайкі паўстання 1595—96* спалена 40% гар. забудовы, у т.л. некалькі цэркваў. Нягледзячы на значныя разбурэнні, горад інтэнсіўна рос: у 1577 у М. 1261 жылы дом, у 1588 — 1500, у 1604 — 2211. Найб. значнай групай насельніцтва былі мяшчане (купцы, дробныя гандляры, рамеснікі), што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй магістрата. Другую сац. катэгорыю складалі тыя, хто не меў гар. правоў (чэлядзь, каморнікі, людзі лёзныя і інш.). У прывілеяваную групу ўваходзілі шляхта, духавенства, замкавая адміністрацыя. Супярэчнасці паміж гар. вярхамі і масай простых гараджан прыводзілі да сац. канфліктаў, што найб. яскрава выявілася ў *магілёўскіх паўстаннях 1606—10*.


Герб **Магілёва**. 1661.

З канца 16 ст. ў сувязі з Рэфармацыяй, контррэфармацыяй і ўвядзеннем царк. уніі ў М. абвастрылася рэліг. барацьба. У канцы 16—18 ст. М. быў буйным цэнтрам бел. праваслаўя. Пераважная большасць магілёўскіх мяшчан вызнавала праваслаўе, для яго абароны стварала свае брацтвы. У 1597 створана брацтва пры Спаскай царкве, пазней пры цэрквах Праабражэнскай (1605), Богаяўленскай (1633) і інш. Яны значна ўплывалі на развіццё адукацыі, у 1590—92 у М. адкрыта агульнаадукацыйная брацкая школа. У 1616—1773 з перапынкамі дзейнічала брацкая *Магілёўская друкарня*. З-за канфлікту з уніяцкім архіепіскапам І.Кунцэвічам адбылося *Магілёўскае паўстанне 1618*. Магілёўцы прынялі ўдзел у падрыхтоўцы *Віцебскага паўстання 1623*. У 1632 заснавана *Магілёўская праваслаўная епархія*, адзіная ў той час правасл. епархія ў Беларусі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* магілёўцы ў жн. 1654 здаліся рас. войску. М. з ваколіцамі быў перададзены ў кіраванне камандзіру Бел. палка К.*Паклонскаму*. У ходзе *Магілёва аблогі 1655* войскі ВКЛ не змаглі адбіць горад. У 1658 горад беспаспяхова спрабаваў узяць казацкі палкоўнік І.*Нячай*. Аднак з цягам ваенных дзеянняў настроі магілёўцаў змяніліся, што прывяло да *Магілёўскага паўстання 1661*. У 1661 кароль Ян II Казімір даў гораду новы герб: у блакітным полі 3 гар. вежы, у сярэдняй — у адчыненай браме рыцар з узнятым мячом, наверсе — герб «Пагоня». Пасля вайны М., нягледзячы на зруйнаванне 2/3 забудовы, зноў пачаў хутка развівацца. У *Паўночную вайну 1700—21* у 1708 М. пацярпеў ад шведскіх і рас. войск. У 1745 у горадзе быў 1301 дом, каля 10 408 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.


**Магілёў**. Гравюра 18 ст.

*Літ.*: Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—2. Могилев, 1882—84; Трубницкий А., Трубницкий М. Хроника белорусского города Могилева: Пер. с пол. М., 1887; Сьцяпанаў Ц. Гіс-



**Магілёў**. Малюнак Н.Орды.

торыя места Магілева да наданьня яму Майдэборскага права [1577 г.] // Зап. аддзела гуманітарных навук. Мн., 1928. Кн. 3; Wisłouch S. Uwagi o przyczynach rozwoju miasta Mohylowa w XVI—XVII w. // Wiadomości Studium historii prawa litewskiego USB. Wilno, 1938. T. 1; Łowmiański H. Struktura gospodarcza Mohylowa w czasach pomiary włocznej // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Lwów, 1939. Z. 1; Яго ж. Handel Mohylowa w XVI wieku // Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983; Чарняўская Т. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада. Мн., 1973; Мелешко В.И. Могилев в XVI— середине XVII в. Мн., 1988; Могилев: Энцикл. справ. Мн., 1990; Філіповіч І.І. Міфы і праўда аб Магілёве. Магілёў, 1993; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Магілёва. Мн., 1998; Марзалюк І. Магілёў у XII— XVIII стст.: Людзі і рэчы. Мн., 1998; Агееў А.Р., Марзалюк І.А., Пушкін І.А. Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах. 2 выд. Магілёў, 1999; Glinnik W. Architektura sakralna Mohylewa w XVII wieku // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць. Зб. навуковых прац удзельнікаў Трэцяй Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць». 22—23 мая 2003 г. Ч. 1—2. Магілёў, 2003.

*Ігар Марзалюк, Алена Марзалюк.*

**Магілёўскае паўстанне 1618**, выступленне гараджан Магілёва супраць прымусовага ўвядзення царкоўнай уніі. Яго прычынамі сталі дзеянні полацкага уніяцкага архіепіскапа І.*Кунцэвіча*, які ў кастр. 1618 накіраваўся ў Магілёў з намерам закрыць там правасл. цэрквы і гвалтоўна навязаць жыхарам унію. Магістрат Магілёва заявіў, што горад не будзе падпарадкоўвацца уніяцкай мітраполіі. Даведаўшыся пра набліжэнне Кунцэвіча, жыхары зачынілі перад ім вароты, устанавілі на гар. вале гарматы, пагражаючы ўжыць зброю, калі архіепіскап паспрабуе пранікнуць у Магілёў. Тады Кунцэвіч паехаў у Варшаву, каб паведаміць пра гэтае здарэнне каралю Жыгімонту III, і дамогся выдання каралеўскага універсала, паводле якога 20 удзельнікаў выступлення (Л.Ісаеў, М.Пуцята, К.Шаўнін, Я.Шульха і інш.) былі прыгавораны да пакарання смерцю, на жыхароў горада накладзены штраф.

**Магілёўскае паўстанне 1661**. Адбылося ў лютым 1661 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. 3.9.1654 Магілёў без бою перайшоў на бок маскоўскага войска. Гараджане прысягнулі на вернасць цару Аляксею Міхайлавічу. Хутка паміж магістратам і рас. вайсковай адміністрацыяй узніклі супярэчнасці. Значны канфлікт адбыўся 11.9.1655. Ваявода дакладваў цару, што магілёўцы «хотят выбрать без государева указа войта и бурмистров и райцев и лавников». Магілёўцы паслалі дэпутацыі да цара і дамагліся зацвярджэння пажаданых кандыдатур. Аднак канфлікт паглыбляўся, магістрат адмаўляўся выконваць загады ваяводы. Цар, нягледзячы на свае папярэднія абяцанні, санкцыяніраваў дзеянні апошняга. Хутка выбухнуў канфлікт паміж бел. правасл. духавенствам і маскоўскай іерархіяй. Прызначэнні на магілёўскую кафедру з 1655 рабіліся маскоўскім патрыярхам. Частка апазіцыйнага магілёўскага правасл. духавенства разам з ігуменам Куцеінскага манастыра Іаілем Труцэвічам была выслана ў глыб Расіі. Кнігі, начынне, друкарню і настаўнікаў Магілёўскай брацкай школы таксама вывезлі ў Расію. Казакі і маскоўскія служылыя людзі ўчынялі рабункі. Мяшчане распрацавалі план паўстання, паводле якога ўсе гаспадары, у чыіх хатах стаялі маскоўскія ратнікі, павінны былі выкруціць крэмені з іх стрэльбаў і 20 лют. на заклік бурмістра Язэпа Левановіча пачаць паўстанне. Аднак масавае агульнагарадское паўстанне пачалося 11 лют. з-за рабаўніцтва і знявагі на рынку маскоўскімі ратнікамі магілёўскіх гандлярак. Пад умоўны вокліч «Пара! Пара!» Левановіч, узброены катаўскім мячом, кінуўся секчы крыўдзіцеляў. Зазваніў ратушны звон, які таксама быў сігналам да пачатку паўстання. На дапамогу мяшчанам прыйшлі выпушчаныя імі ваеннапалонныя. Маскоўскі гарнізон амаль цалкам быў вынішчаны. Паводле розных крыніц, яго колькасць была ад 2 тыс. да 7 тыс. чал., выратаваліся толькі некалькі чалавек. Магілёўцы ўзялі ў палон ваявод С.С.Гарчакова, М.А.Палуэктава, стралецкага галаву С.І.Чэкіна і інш. афіцэраў. Найб. актыўныя ўдзельнікі паўстання атрымалі шляхецтва, Магілёў зноў атрымаў магдэбургскае права і быў ураўнаваны ў правах з Вільняй, яму нададзены новы герб.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 2. Вильна, 1867; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889; Акты Московского государства. Т. 3. СПб., 1901; Беларускі архіў. Т. 1. Мн., 1927; Полное собрание русских летописей. Т. 35. М., 1980; Марзалюк І.А. Магілёў у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай (1654—1667) // Зб. матэрыялаў магілёўскіх чытанняў «Трафім Сурта і яго час». Магілёў, 1993; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995. С. 103—104.

*Ігар Марзалюк.*

**Магілёўская воласць**, Магілёўскае староства, Магілёўская эканомія, буйное дзяржаўнае уладанне ў 14—18 ст. У 1387—99 належала каралеве *Ядвізе*. У 15 ст., відаць, адасобіўся маёнтак Буйнічы. У 1501—13 М.в. у пажыццёвым уладанні вял. княгіні *Алены Іванаўны*, пазней — дзярж. ўласнасць. У сярэдзіне—2-й пал. 16 ст. звычайна называлася старраствам. Тэр. М.в. фарміравалася да 1-й пал. 16 ст., калі да яе далучаны часткі воласці *Басея* і *Мсціслаўскага княства*. У 1560 М.в. уключала г. Магілёў і больш за 60 сёл, з іх буйнейшыя Вейна



Аўтар В.Л.Насевіч

(112 дымоў), Коханавічы (100), Сідаравічы (67), Аніскавічы (57), Чавусавічы, або Чавусы (53). Пасля адм. рэформы 1565—66 М.в. у складзе *Аршанскага павета*. Намеснікі (старасты, дзяржаўцы) магілёўскія: Ю.І.Зяноўевіч (1514—16), Я.Шчыт (1516—18), кн. В.І.Саламярэцкі (1520—40), Ф.Бака (1540—47), кн. Я.Гальшанскі (1547—49), С.Кезгайла (1552—54), А.Б.Валовіч (1554—64), Р.Хадкевіч (1564—72), А.Хадкевіч (1572—78), Дз.Халецкі (да 1598). З 1589 перайшла ў разрад эканомій. З канца 16 ст. імкліва павялічвалася колькасць паселішчаў і жыхароў. Паводле інвентару 1604, М.в. складалася (апрача Магілёва) з 194 сёл (з іх 28 пустых), падзеленых на 12 войтаўстваў: Асавецкае (23 сялы), Бардзілаўскае (22), Благавіцкае (24 сялы і новазаснаванае мяст. Чавусы), Брылеўскае (14), Вейнаўскае (18), Горбавіцкае (13), Даманавіцкае (13), Іструбіцкае (4), Плешчыцкае (14), Пуцькаўскае (23), Ульянавіцкае (13) і наваствbooранае ў 1600 Чамаданаўскае (12). Першы адміністратар Магілёўскай эканоміі — Л.І.Сапега, у 1736—72 М.Пацей. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) эканомія ў складзе Рас. імперыі, налічвала 5261 дым, 25 063 душы мужчынскага полу.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Магілёўская друкарня**, кнігавыдавецкае прадпрыемства Магілёўскага праваслаўнага брацтва ў 17—18 ст. 19.3.1633 кароль Уладзіслаў IV выдаў брацтву прывілей на права адкрыцця друкарні і выдання навучальных і інш. кніг на «рускай» (старабел.), грэчаскай, лацінскай і польскай мовах. Брацтва гэта права, відаць, перадало С.*Собалю*, які ў 1636—38 выдаў у Магілёве некалькі кніг. У 1640-х г.брацтвам выдадзена некалькі кніг (друкар Фёдар Грышановіч). У 1676 брацтва атрымала ад караля Яна III Сабескага прывілей на адкрыццё друкарні пры Богаяўленскім манастыры і выданне кніг на «рускай» і польскай мовах. З 1690-х г. да 1708 друкарню ўзначальваў М.Я.*Вашчанка*. У канцы 17—пач. 18 ст. друкарня выдала царк., павучальныя і палемічныя творы: «Акафісты і каноны» (1693), «Псалтыр» (1693), «Малітвасловец» (1695), «Евангелле вучыцельнае» і «Перла мнагацэннае» Кірылы Транквіліёна-Стаўравецкага (1697, 1699), «Часаслоў» (1697), «Неба новае» Іаанікія Галятоўскага (1699), «Кніга жыцій святых» Дзмітрыя Растоўскага (1702), «Трыфалагіён» (1748), «Часаслоў» (1771) і інш. Апошняе вядомае выданне — «Часоўнік» (каля 1773). У друкарні працавалі друкары і гравёры В.*Вашчанка*, Ф.*Ангілейка*, Афанасій П. (Пігарэвіч?), М.Антушкевіч (гл. *Магілёўская школа гравюры*). Друкарня адыграла значную ролю ў пашырэнні асветы на Беларусі.

*Літ.*: Жудро Ф. История Могилевского Богоявленского братства. Могилев, 1890; Пічэта У.І. Друк на Беларусі ў XVI і XVII ст. // Чатырохсолецьце беларускага друку. Мн., 1926; Пікулік А.М. Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

*Валерый Пазднякоў.*

**Магілёўская духоўная семінарыя**, праваслаўная навучальная ўстанова для падрыхтоўкі святароў. Заснавана магілёўскім епіскапам *Георгіем* Каніскім у 1756 на аснове школы Богаяўленскага брацтва. З-за недахопу грошай мела курс 2-класнай пачатковай школы (штогод на яе ўтрыманне выдзялялася 400 руб. ад рас. Сінода). У 1760 Каніскі скардзіўся ў Сінод: «Иезуитские студенты, по наущению плебана Зеновича, напав на семинарию, били учеников нещадно брёвнами и саблями и одному руку жестоко изрубили. А от сего случая священство епархии моей и граждане здешние детей своих в семинарию давать опасаются, почему и число учеников не великое до сих пор находится». Рас. ўрад спрабаваў заступіцца і звярнуўся за дапамогай да кароннага маршалка сойма Рэчы Паспалітай, які даручыў разабрацца віленскаму біскупу, а той параіў Каніскаму звярнуцца ў суд. Паводле *дагавора 1768* паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй гарантавалася дзейнасць семінарыі і яе недатыкальнасць. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі афіцыйна пацвердзіў правы семінарыі і дазволіў ёй дзейнічаць пры царкве св. Мікалая як самай аддаленай ад Магілёўскага езуіцкага калегіума. У 1774 Кацярына II загадала адпускаць на семінарыю тыя ж сродкі, што і на рас. духоўныя семінарыі, а ў 1780 ахвяравала на яе развіццё яшчэ 1600 рублёў штогод, што дазволіла ўзвесці 2-павярховы вучэбны корпус, а ў 1795 жылы 2-павярховы будынак для выкладчыкаў і семінарыстаў. У 1790-х г. мела падрыхтоўчы і 5 асн. класаў з

тэрмінам навучання 7 гадоў. Зачынена ў 1918.

*Андрэй Самусік.*

**Магілёўская праваслаўная епархія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Утворана 1.11.1632 па ініцыятыве мітрапаліта Пятра Магілы як адзіная правасл. епархія на Беларусі і ў ВКЛ (усе астатнія былі пераведзены ва унію), падпарадкоўвалася *Кіеўскай мітраполіі*. Кафедра епіскапаў знаходзілася ў Мікольскай царкве ў Магілёве. У 1633 зацверджана прывілеем караля Уладзіслава IV. Першы епіскап *Іосіф* Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі жыў у Вільні. У 1647—50 магілёўскай кафедрай валодалі уніяты, потым зноў праваслаўныя. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 тэр. епархіі падпарадкоўвалася полацкім епіскапам, якія прызначаліся маскоўскім патрыярхам. Тытул епіскапаў да 1675 — магілёўскі, аршанскі і мсціслаўскі, пасля — магілёўскі і беларускі. Епіскапы павінны былі зацвярджацца каралём. Пасля пераходу Кіеўскай мітраполіі пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату (1685) магілёўскіх епіскапаў прызначала Масква, але па-ранейшаму зацвярджаў кароль. У 1718 у М.п.е. былі мужчынскія манастыры: Ахорскі, Буйніцкі, Віцебскі, Горацкі, Грывецкі, Дзісенскі, Друйскі, Крыжборскі, Куцеінскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Невельскі, Полацкі, Саламярэцкі, Шклоўскі і жаночыя: Баркулабаўскі, Касцюкоўскі, Куцеінскі, Мазалаўскі. У 1740—50-я г. ў выніку ганенняў на праваслаўе колькасць прыходаў значна скарацілася, у 1755 зроблена спроба зачыніць кафедру. Вял. намаганні для захавання дзейнасці епархіі зроблены епіскапам *Георгіем* Каніскім.

Епіскапы магілёўскія (да канца 18 ст.): Іосіф Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі (1632—34), Сільвестр Косаў (1634—47), Іосіф Канановіч-Гарбацкі (1647—53), Ігнацій Аксяновіч-Старушыч (1650), Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі (1661—63), Феадосій Васілевіч (1664—78), Клімент Трызна (1680—88), Сільвестр Ваўчанскі (1688—91), Серафім Пальхоўскі (1697—1704), Сільвестр Чацвярцінскі (1704—28), Арсеній Бярло (1728—32), Іосіф Ваўчанскі (1732—42), Іеранім Ваўчанскі (1742—54), Георгій Каніскі (1755—95).

*Ігар Пушкін.*



**Магілёўская ратуша**. Фота пач. 20 ст.

**Магілёўская ратуша.** Існавала ў 17—20 ст. на цэнтральнай (Гандлёвай) плошчы Магілёва. У канцы 17 ст. ратуша — мураваны 2-павярховы будынак з 8-граннай 5-ярусная вежай пасярэдзіне гал. фасада. У 1679—81 пад кіраўніцтвам майстра Феські збудаваны прамавугольны (28 х 10,5 м) будынак ратушы. Першая вежа вышынёй каля 26 м, узведзеная ў 1682—86 майстрам Крузбергам з Быхава, абвалілася. У 1692 пасля разборкі муроў старой вежы майстрам Ігнатам збудавана новая вежа вышынёй да 38 м. На 1-м паверсе ратушы знаходзіліся сені, вял. «ізба» (тут засядаў суд пад старшынствам войта), канцылярыя і святліца, дзе захоўваліся бягучыя справы магістрата; на 2-м паверсе — сені, судовая «ізба» (месца магістрацкага суда), вял. зала для пасяджэнняў магістрата і дапаможныя памяшканні; у цокальным паўпадвальным паверсе — скарбніца, склады і астрог. Відаць, 1-ы паверх быў перакрыты скляпеннямі. На 2-і паверх вялі лесвіцы, аздобленыя разнымі драўлянымі балясамі. Звонку ратуша была атынкаваная, мела 2 ганкі — высокі парадны і нізкі (з боку гал. і дваровага фасадаў). Вежа завяршалася гранёным купалам са шпілем, мела балкон з металічнымі кратамі, вял. гадзіннік (з 17 ст.). Стромкі дах ратушы быў накрыты плоскай чырвонай дахоўкай, аздоблены пазалочанымі флюгерамі на франтоне, дахах ганкаў і вежавым шпілі. У 1773 ратуша капітальна перабудавана. У час Вял. Айч. вайны моцна пашкоджана, у 1957 знесена. У 1979 і 1984 праведзены археалагічныя раскопкі рэштkaў. У цяперашні час адбудоўваецца.

*Алег Трусаў.*

**Магілёўская хроніка**, помнік гарадскога летапісання 17—19 ст., апошні беларускі летапісны звод. Складзена ў Магілёве купецкім старастам Т.Р.*Суртам* (у 1693 склаў 1-ы летапіс, які дапаўняў да 1701, звесткі за 1526—1701) і рэгентам гар. канцылярыі Ю.*Трубніцкім* (звесткі за 1701—46), прадоўжана сынам апошняга Аляксандрам і ўнукам Міхаілам (да 1856). Напісана па-польску, запісы за 1841—56 па-руску. Найб. навук. і гіст.-літ. каштоўнасць мае частка, напісаная першымі двума хроністамі (звесткі за 1526—1746), якая зберагалася ў рукапісе, датаваным 1747 (лісты запісаў за 1705 і 1710—44 згублены). Крыніцамі хронікі паслужылі розныя летапісныя запісы і ўспаміны сучаснікаў, матэрыялы Магілёўскага архіва, хронікі А.Гваньіні і М.Стрыйкоўскага, кіеўскі «Сінопсіс», асабістыя назіранні аўтараў. У хроніцы адлюстравана сац.-паліт., гаспадарча-эканам. і культ. жыццё Магілёва эпохі позняга феадалізму. Сведчыць аб высокім узроўні развіцця бел. горада ва ўмовах гар. самакіравання. Змяшчае матэрыял па гісторыі Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы, Расіі 16—19 ст. Запісы пра падзеі перыяду Паўн. вайны 1700—21 паказваюць цяжкае становішча горада і яго жыхароў. Створаны вобразы Пятра I, Карла XII, А.Д.Меншыкава, І.Мазепы і інш. Многія старонкі М.х. напоўнены сац. падтэкстам, прасякнуты крытычным стаўленнем да феадалаў і гар. буржуазіі, спачуваннем



простаму чалавеку, нянавісцю да іншаземных захопнікаў (асабліва хроніка Ю.Трубніцкага). Аўтары, у значнай ступені паланізаваныя бел. мяшчане, не страцілі сувязі з нар. традыцыямі і апіраліся на бел. культ. спадчыну. У хроніцы змешчаны таксама шэраг літ. твораў 1-й пал. 18 ст. (вершаваны пасквіль на польскага кардынала М.Радзяёўскага, алегарычная сатыра «Карнавал іншаземны ў Польшчы» і інш.). Паводле жанравай формы М.х. — летапіс, які месцамі пераходзіць у дзённік горада. Складаецца з кароткіх пагадовых запісаў і разгорнутых апавяданняў пра значныя гіст. падзеі і асобныя моманты з жыцця герояў. М.х. — каштоўны збор арыгінальных, нярэдка унікальных звестак па гісторыі бел. зямель, багатая крыніца пазнання жыцця бел. горада эпохі барока, асабліва Магілёва. Як літ. помнік — гіст. аповесць дакументальна-мемуарнага характару, вылучаецца жывасцю і дэталёвасцю апавядання, рэдкай для летапісаў набліжанасцю аўтараў да аб'екта апісання. Часткова апублікавана ў 19 ст. ў перакладзе на рус. мову, частка (да 1746) змешчана ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 35, 1980). Рукапіс зберагаецца ў Рас. нац. б-цы ў С.-Пецярбургу. Грунтоўна не даследавана.

*Літ.*: Чамярыцкі В.А. Мясцовае летапісанне Беларусі XVII—XVIII стст.: (Магілёўская хроніка) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1979. № 4; Филипович И.И. Из истории Могилевской хроники XVII—XVIII стст. // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография. Мн., 1983. Вып. 2; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 173—203.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Магілёўская хроніка Спаскага манастыра**, гістарычна-літаратурны твор. Складзена ў *Магілёўскім Спаскім манастыры* невядомым аўтарам каля 1755 на рус. мове са шматлікімі беларусізмамі. У хроніцы апавядаецца гал. чынам пра рэлігійную гісторыю Магілёва 1526—1754. Аўтар выкарыстаў звесткі каралеўскіх прывілеяў Магілёву і гар. кліру, актавыя дакументы магістрата і манастыроў. Большая частка паведамленняў хронікі прыпадае на гады, аб якіх адсутнічае інфармацыя ў *Магілёўскай хроніцы* Сурты-Трубніцкіх і *«Запісках ігумена Арэста»*, што дазволіла М.Улашчыку выказаць меркаванне пра арыгінальнасць твора і пра тое, што ў Магілёве працаваў яшчэ адзін летапісец. Хроніка надрукавана ў «Археаграфічным зборніку дакументаў» (т. 5, 1871) пад назвай «Розныя запіскі, якія датычаць Беларускай епархіі і тутэйшай набожнасці». Зберагаецца ў б-цы АН Літвы.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 209—210.

***Ігар Марзалюк.***

**Магілёўская школа гравюры**, мастацкая школа ў беларускай графіцы канца 17—18 ст. Тэрмін упершыню ўжыты М.М.*Шчакаціхіным* у 1925. Склалася ў Магілёве і звязана з дзейнасцю друкароў і гравёраў Магілёўскага Богаяўленскага брацтва, гал. ролю ў яе фарміраванні адыгралі М.Я.*Вашчанка*, В.*Вашчанка*, Ф.*Ангілейка*. Сярод майстроў М.ш.г. былі таксама Афанасій П. (Пігарэвіч?), Сямён, М.Антушкевіч, М.Чарняўскі, Я.Стральбіцкі. Працягвала і развівала традыцыі Віленскай і Куцеінскай школ гравюр. У 1690-я г.— канцы 18 ст. ў *Магілёўскай друкарні* выдадзена каля 40 царк.-службных кніг. Сярод іх «Псалтыры», «Часасловы», «Акафісты», «Малітвасловы», «Катэхізісы», «Актоіхі», «Ірмалоі» і інш. Большасць выданняў мела тытульныя лісты, была ўпрыгожана фігуратыўнымі ілюстрацыямі, застаўкамі, канцоўкамі, ініцыяламі. Арганічнае спалучэнне гэтых элементаў стварыла непаўторнае аблічча магілёўскага старадруку. Асн. элемент аздаблення ў брацкіх выданнях — фігуратыўная ілюстрацыя, роля франтыспісу зніжаецца. Падрабязныя ілюстрацыі магілёўскіх старадрукаў стваралі своеасаблівую выяўленчую паралель тэксту, сталі адным з самых поўных новазапаветных цыклаў у бел. кніжнай графіцы. Блізкія да тагачасных бел. абразоў і паліхромнай драўлянай пластыкі творы М.ш.г. выкананы ў стылі т.зв. магілёўскага барока (спалучэнне мясц. маст. традыцый з рысамі зах.-еўрап. барока і візантыйскага мастацтва), адзначаны свецкім жыццесцвярджальным характарам рэліг. сцэн, яскравай жанравасцю, выкарыстаннем натурных назіранняў, што выявілася ў нар. характары тыпажу, адлюстраванні адзення, прадметаў побыту, архітэктурных дэталей і інш. Характэрнымі рысамі М.ш.г. з'яўляюцца лаканічная, лінеарная гравіроўка, прастата кампазіцыйнай будовы, перавага фігур над архітэктурным фонам. Ілюстрацыі выконваліся ў тэхніцы дрэварыту і медзярыту; характэрнай асаблівасцю магілёўскіх старадрукаў стала спалучэнне гэтых тэхнік у адным выданні («Акафісты», 1693, 1726, 1728). Майстры М.ш.г. ўпершыню ў бел. кнігадрукаванні пакінулі на гравюрах свае подпісы. Магілёў стаў месцам выкanання першага цалкам свецкага цыкла ілюстрацый — медзярытаў М.Я.Вашчанкі да кнігі «Манархія Турэцкая» П.Рыко (Слуцк, 1678). Найб. яскрава рысы М.ш.г. выявіліся ў выданнях «Акафісты і каноны» (1693), «Дыоптра» (1698), «Перла мнагацэннае» Кірылы Транквіліёна-Стаўравецкага (1699), «Неба новае» Іаанікія Галятоўскага (1699), «Ірмалой» Іаана Дамаскіна (1700), «Кніга жыцій святых» Дзмітрыя Растоўскага (1702), «Часаслоў» (1703), «Актоіх» Іаана Дамаскіна (1730).

*Літ.*: Шчакаціхін М. Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII—XVIII ст. // Навуковы зборнік Інстытута беларускай культуры. Мн., 1925; Шматаў В.Ф. Мастацтва беларускіх старадрукаў (XVI—XVIII стст.). Мн., 2000; Пікулік А.М. Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

***Алена Пікулік.***

**Магілёўская школа дойлідства**. Склалася ў 17—18 ст. у грамадскім і культавым дойлідстве Магілёва шляхам сінтэзу ўсх. і зах. плыняў, якія ў спалучэнні з мясцовымі традыцыямі спрыялі стварэнню своеасаблівай мастацкай культуры. На фарміраванне архітэктурна-мастацкага аблічча збудаванняў моцна ўплывалі ландшафтныя ўмовы горада, якія дыктавалі перавагу вышынных ярусных кампазіцый (вежы *Магілёўскага замка, Магілёўскай ратушы* і інш.). На 1-м этапе (17 ст.) вял. ўплыў на творчасць майстроў школы зрабіў стыль рэнесанс, на аснове якога выпрацаваны важнейшыя прыёмы стварэння кампазіцый і ў дэкоры (багаты дэкор мелі не толькі буйныя грамадзянскія і культавыя збудаванні, але і многія жылыя дамы). У 18 ст. школа развівалася пад уплывам стылю барока, які ўзбагаціў сродкі выразнасці, павысіў ролю дэкору ў аздабленні фасадаў і інтэр'ераў будынкаў. Найб. значныя дасягненні школы ў мураваным культавым дойлідстве. Храмы звычайна буда-

валі крыжова-цэнтрычныя, з купалам над сяродкрыжжам (Пакроўская і Успенская цэрквы). Характэрная рыса культавых збудаванняў М.ш.д. — сінтэз структур стараж.-рус. 3-апсідных храмаў і зах.-еўрап. 3-нефавых базілік. Найб. выразна традыцыі школы ўвасоблены ў цэрквах Богаяўленскай, Мікольскай і Праабражэнскай. Асн. мастацкую ролю ў інтэр'еры адыгрывалі разныя іканастасы, алтары, ківоты і інш. элементы. У 2-й пал. 18 ст. школа занепала і перастала існаваць.

*Юрый Якімовіч.*



Аўтар Я.К.Анішчанка

**Магілёўская эканомія**, дзяржаўнае ўладанне ў ВКЛ у 16—18 ст. Згодна з соймавай канстытуцыяй 1589 М.э. была ўтворана з Магілёўскага староства з мэтай забеспячэння велікакняжацкага прастола і асабістых патрэб («на стол») вял. князя. На пач. 17 ст. ў склад М.э. ўваходзіла больш за 190 вёсак, у якіх налічваліся 6064 валокі ворнай зямлі (у 1742 — 6135 валок). У 1604 у эканоміі было 5118 сял. дымоў, у 1671 — 4171, у 1742 — 3790, у 1772 — 5261. Змяншэнне колькасці дымоў у 2-й пал. 17 ст. і 1-й пал. 18 ст. звязана з войнамі гэтага перыяду (казацка-сял. вайной 1648—51, вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, Паўн. вайной 1700—21), у якіх землі М.э. былі адным з асн. тэатраў ваенных дзеянняў. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. М.э. знаходзілася ў непасрэдным кіраванні каралеўскай адміністрацыі Магілёўскага замка, але нейкая яе частка амаль заўсёды была ў трыманні шляхты (у 1604 — каля 10% ад агульнай колькасці валок). У перыяд разбуральных войнаў сярэдзіны 17 ст. вострая патрэба ў грашах прымусіла караля павялічыць колькасць зямель М.э., якія здаваліся ў арэнду ці заклад. У 1736 у трыманні феадалаў знаходзіліся 53% валок М.э. Часам уся эканомія цалкам трапляла ў трыманне буйных феадалаў. Так, у 1667—80 арандатарам М.э. быў віленскі ваявода Міхал Пац, у 1700—03 — немцы Бейман і Лейман, у 1719—22 — надворны каронны падскарбі Максімілян Асалінскі, у 1736—42 — палкоўнік Ян Быкоўскі, у 1742—64 — падскарбі ВКЛ граф Ежы Флемінг. Раздача зямель у трыманне адмоўна адбівалася на развіцці эканоміі і на даходах каралеўскага скарбу. Арандатары і трымальнікі імкнуліся парушыць уставы і з мэтай павялічыць уласныя прыбыткі — ускласці на сялян дадатковыя падаткі і паборы.

2-я пал. 18 ст. стала часам рэформ ў сталовых эканоміях ВКЛ, ініцыятарам якіх выступіў надворны падскарбі ВКЛ А.Тызенгаўз. Каб палепшыць гаспадарчае развіццё эканомій і пазбавіць іх насельніцтва ад свавольства арандатараў і трымальнікаў, на канвакацыйным сойме 1764 было вырашана ўсе каралеўскія сталовыя ўладанні забраць пад непасрэднае кіраўніцтва скарбу. У 1765 у М.э. праведзена люстрацыя, па яе выніках да 1771 былі складзены падрабязныя карты эканоміі, агульныя выдаткі на якія вызначаліся ў памеры 100 тыс. злотых. У М.э. адбылася адм. рэформа: у 1765 у яе склад уваходзілі 6 ключоў: Асавецкі, Бардзільскі, Вейненскі, Плешчыцкі, Чавускі і Чэрыкаўскі, а ў 1766 яна была падзелена на 4 губерні і 19 ключоў. У Антапольскую губ. ўваходзілі Антапольскі, Касіцкі, Красненскі, Навадворскі, Паўлаўскі ключы; у Аўгустоўскую губ. — Аўгустоўскі, Брылёўскі, Інструбіцкі, Юшкавіцкі ключы; у Станіслаўскую губ. — Вейненскі, Грудзінаўскі, Машкоўскі, Пятроўскі, Станіслаўскі ключы; у Чавускую губ. —Заборскі, Малкаўскі, Турынскі, Чэрыкаўскі, Ялоўскі ключы. У М.э. фальварак не атрымаў вял. пашырэння, а ў 1642 усё насельніцтва М.э. было пераведзена на голы чынш «з-за прычыны аддаленасці ад партоў» і нявыгаднасці фальварковай гаспадаркі. Аднак у 2-й пал. 1760-х г. у М.э., як і ў інш. сталовых маёнтках у час рэформаў Тызенгаўза, назіралася тэндэнцыя да павелічэння фальварковага ворыва. Калі ў 1742 пад фальварак былі заняты ўсяго 3 валокі ў в. Дубінкі, то ў 1766 у кожнай з губерняў М.э. ўжо існавала дворнае заворванне. Таксама ў эканоміі актывізаваліся гандаль і будаўніцтва. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) М.э. далучана да Рас. імперыі. У сувязі з гэтым Скарбовай камісіяй ВКЛ быў складзены табель грашовых прэтэнзій да Рас. імперыі, паводле якіх рас. ўрад меў аддаць у скарб Рэчы Паспалітай 954 485 злотых, чаго не адбылося. Кацярына II перадала значную частку М.э. ў прыватную ўласнасць набліжаным асобам: А.Рымскаму-Корсакаву (5829 душ), А.Ярмолаву (4445 душ), В.Чычагову (3997 душ) і інш. Рэшта захавалася ў якасці дзярж. маёнткаў.

*Літ.*: Kościałkowski S. Z dziejów Komisji Skarbowej Litewskiej w początkach panowania Stanisława Augusta (1765—1780) // Ateneum Wileńskie. 1924. Z. 7—8; Яго ж. Antoni Tyzenhauz. Podskarbi nadworny litewski. T. 1—2. Londyn, 1970—

71; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Jurkiewicz J. Czynsz i pańszczyzna w ekonomiach królewskich w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII—pierwszej połowie XVIII w. // Przemiany w Polsce, Rosji, na Ukrainie, Białorusi i Litwie (druga połowa XVII—pierwsza połowa XVIII w.). Wrocław; Warszawa; Kraków, 1991; Кітурка І.Ф. Да пытання аб сацыяльна-эканамічным развіцці Магілёва і Магілёўскай эканоміі ў 1764—1772 гг.: (па матэрыялах Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве) // Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва. Магілёў, 2001; Яе ж. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст. Гродна, 2003.

*Ірына Кітурка.*

**Магілёўскі Богаяўленскі манастыр**. Дзейнічаў у Магілёве ў 1634—1918. У 1618 мяшчане Крыжаноснага брацтва купілі пляц з пабудовамі на Шклоўскай вул. ў княгіні Евы Саламярэцкай з роду Корсакаў, якая ахвяравала манастыру 400 коп грошаў. Побач з гэтым месцам у 1619 кн. Ян Агінскі даў яшчэ адну пляцоўку для заснавання манастыра са школай і шпіталем. У 1633—36 з дазволу караля Уладзіслава IV тут узведзена Богаяўленская царква. У 1633 канстанцінопальскі патрыярх Кірыла даў манастыру права стаўрапігіі (незалежнасці ад мясц. епіскапа), а каралеўскім прывілеем дадзена права на друкаванне кніг для школ (пацверджаны Янам III Сабескім і Аўгустам II). У 1634 па запрашэнні мяшчан з *Віленскага Святадухаўскага манастыра* прыбыў ігумен Варлаам Палоўка (гэта дата лічыцца пачаткам дзейнасці манастыра). У 1637 Багдан і Алена Статкевічы ахвяравалі манастыру новы пляц. У далейшым (да 1798) эканам. дзейнасцю манастыра кіравалі выбраныя братчыкамі на 3 гады старасты, а ігумены сачылі толькі за царк. справамі. У 1669 пры Іаана-Багаслоўскай царкве ўтворана малодшае брацтва, да якога належалі маладыя нежанатыя мяшчане. У манастыры знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай, для якога войт Ф.Дзявульскі падараваў манастыру пляц з царквой св. Ануфрыя, пабудаванай ім у 1704.

Богаяўленская царква пабудавана ў стылі ранняга барока. Гэта мураваная 3-вежавая 3-апсідная 10-стаўповая крыжова-купальная базіліка з 8-гранным барабанам і купалам (пастаўлены ў 1700) над сяродкрыжжам. Гал. фасад



Царква **Магілёўскага Богаяўленскага манастыра**. Фота пач. 20 ст.

(перабудаваны ў 18 ст.) меў ярусную кампазіцыю, завяршаўся 2 вежамі і фігурным франтонам паміж імі. Верхні ярус быў аздоблены плоскімі арачнымі нішамі з гіркамі. Інтэр'ер быў багата размаляваны, меў пазалочаны разны іканастас (17—18 ст.) работы мясцовых майстроў з абразамі іканапісца Афанасія Пігарэвіча і інш. у сярэбраных абкладах (1755) работы магілёўскага чаканшчыка Пятра Слізіка (Слізыка). У 1657 побач з царквой пачата будаўніцтва 4-ярусная вежы-званіцы, на якой у 1686 устаноўлены гадзіннік, зроблены манахам Макарыем. Царква разбуралася ў 1708 і 1748, у 1750—60 праводзіліся аднаўленчыя работы. У 1918 манастыр скасаваны, цэрквы дзейнічалі да 1928. У Вял. Айч. вайну манастырскі комплекс пашкоджаны, потым разбураны. Архітэктурна-прасторавая кампазіцыя царквы зрабіла значны ўплыў на архітэктурнае аблічча шэрагу правасл. храмаў Беларусі.

*Тамара Чарняўская, Аляксандр Ярашэвіч.*

**Магілёўскі езуіцкі калегіум**. Дзейнічаў у Магілёве ў канцы 18—пач. 19 ст. Магілёўскі пробашч Я.Здановіч у 1673 заснаваў езуіцкую рэзідэнцыю, якая адчынілася ў 1680. У 1682 адкрыта ніжэйшая школа, для якой у 1732—38 збудавана мураванае памяшканне; каля 1684 — музычная бурса і канвікт (інтэрнат), заснаваны тэатр. У 1684 збудавана мураваная капліца св. Францыска Ксаверыя і Анёлаў Вартаўнікоў, у 1687 — драўляны касцёл (згарэў у 1708). У 1699 пачата будаўніцтва мураванага касцёла Анёлаў Вартаўнікоў, св. Тадэвуша і св. Францыска Ксаверыя (набажэнствы з 1725, асвячоны ў 1745). У 1779 рэзідэнцыя пераўтворана ў калегіум з 6 класаў. Каля 1780 адчынены музей, дзе былі выстаўлены выкапні, матылі, манеты, медалі, дзейнічалі фізічны і хімічны кабінеты. Калегіум зачынены ў 1820.

Комплекс калегіума збудаваны ў стылі барока каля Каралеўскай брамы ў Старым горадзе. Касцёл — 3-нефавая базіліка з паўкруглым завяршэннем цэнтр. нефа. Гал. фасад завяршаўся 2 вежамі з барочнымі купаламі. Інтэр'ер аздоблены карынфскімі пілястрамі, на сценах і скляпенні цэнтр. нефа была размалёўка. У 1833 касцёл пераўтвораны ў правасл. царкву, у 1848 у цэнтры будынка пастаўлены несапраўдны шматгранны купал. Будынак калегіума 2-павярховы, прамавугольны ў плане. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Далучаўся да касцёла тарцовай сцяной. Касцёл і часткова калегіум разабраны пасля Вял. Айч. вайны.

*Валерый Пазднякоў, Таццяна Чарняўская.*

**Магілёўскі замак.** Існаваў у Магілёве ў 16—19 ст. Размяшчаўся на мысе правага берага Дняпра, паблізу р. Дубровенка. Яго дзядзінец меў форму, блізкую да чатырохвугольніка (плошча больш за 1 га). З захаду пляцоўка дзядзінца ўзвышалася над далінай Дубровенкі на 20 м, з Пд — над далінай Дняпра на 25 м, з У — 14 м; з Пн была ўмацавана ровам. Замак пабудаваны ў 1526 на месцы бескурганнага могільніка 12—13 ст. Па перыметры пляцоўку замка ўмацоўваў вал (знівеліраваны ў пач. 19 ст., захаваўся на вышыні 1,2 м) з гліны і пяску, якія для трываласці абпалілі да цэглападобнага стану. У 16 ст. меў драўляныя ўмацаванні зрубнай канструкцыі, цэйхгауз для агнястрэльнай і халоднай зброі, розны ваенны рыштунак. У час паўстання С.Налівайкі ў 1595 замак спалены, пасля аднаўлены. Замкавыя ўмацаванні складалі-



План **Магілёўскага замка**. 19 ст.

ся з 7 вежаў і 2—3-ярусных гародняў, пастаўленых на высокім земляным вале. Цераз абарончы роў, які аддзяляў замак ад горада, быў перакінуты драўляны мост на палях. Яго апошні пад'ёмны пралёт падводзіў да 5-яруснай Горнай брамы. Астатнія 6 вежаў былі 3—5-ярусныя, а Дольная брама мела 4 ярусы. З боку замка да Дняпра і Дубровенкі вялі 2 патаемныя хады. Сцены гародняў і вежаў мелі таўшчыню ў 1—2—3 бервяны, з боку поля іх рабілі больш магутнымі і звычайна абмазвалі глінай. У 1633 замак згарэў, але праз 2 гады адноўлены 2 брамы і сцены ў выглядзе 1—2-раднага частаколу. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 замак моцна пацярпеў. У 1655—60 яго аднавілі і рэканструявалі: з 3 бакоў пабудавалі бастыёны, на дзядзінцы — разнастайныя гасп. пабудовы (згарэлі ў час пажару 1664, пазней адноўлены, зноў згарэлі ў 1708). Бастыённыя ўмацаванні замка ў 1-й пал. 19 ст. знівеліраваны. Археалагічныя раскопкі М.з. праводзілі М.А.Ткачоў (1982), З.Л.Яцкевіч (1990), І.А.Марзалюк (1992—96).

*Міхась Ткачоў.*

**Магілёўскі кляштар бернардзінцаў.** Існаваў у канцы 17 ст.—1864 у Магілёве. Заснаваны ў 1687 лоўчым рэчыцкім Тэадорам Жавускім. Быў размешчаны на беразе Дняпра. Касцёл св. Андрэя 1-нефавы, прамавугольны ў плане. Неф пераходзіць у крыху вузейшы за яго выцягнуты прэсбітэрый, завершаны 3-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад фланкіраваны 2 невял. прамавугольнымі ў плане вежамі (у зах. вежы размяшчалася лесвіца). У 18 ст. з Пн да касцёла быў прыбудаваны прамавугольны ў плане аб'ём з дзвюма 2-яруснымі вежамі (ва ўсх. вежы была лесвіца), якія завяршаліся купаламі. Неф і прэсбітэрый былі накрыты адзіным дахам, тарэц якога з боку гал. фасада закрываў фігурны франтон. Рытм бакавых фасадаў ствараўся прамавугольнымі вокнамі і лучковымі завяршэннямі, лапаткамі. З У да касцёла быў прыбудаваны П-падобны ў плане 2-павярховы калідорнай планіроўкі корпус кляштара. У 1864 кляштар скасаваны, з 1872 тут знаходзіўся архіў. Будынкі разбураны ў Вял. Айч. вайну.

*Вольга Кукуня.*

**Магілёўскі кляштар кармелітаў.** Існаваў у *Магілёве* ў 1633—каля 1831. Узнік як філіял *Бялыніцкага кляштара кармелітаў*, калі кароль Уладзіслаў IV 10.9.1633 даў дазвол бялыніцкім кармелітам купляць дамы і пляцы ў Магілёве для пабудовы касцёла і кляштара (адна са сцэн размалёвак касцёла ілюструе гэту падзею). У 1687 было 6 манахаў. Паводле інвентару 1692 у кляштары быў абраз Маці Божай, які лічыўся цудатворным. У 1738—52 пабудаваны мураваны касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі. У 1783 касцёл стаў архікафедральным саборам Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі, біскуп С.Богуш-Сестранцэвіч асвяціў яго ў гонар св. Станіслава. Спачатку гал. фасад быў 2-вежавы, з фігурным франтонам пасярэдзіне. У 1788 па ініцыятыве Богуш-Сестранцэвіча быў рэканструяваны гал. фасад. У выніку перабудовы разабраны завяршэнне барочных вежаў і частка фігурнага франтона паміж імі, а ўвесь першапачатковы фасад аказаўся закрыты класіцыстычным 4-калонным іанічным порцікам з трохвугольным франтонам. Справа і злева ад порціка да першапачатковага аб'ёму былі прыбудаваны 3-ярусныя бакавыя крылы, завершаныя 8-граннымі ратондападобнымі вежачкамі (памяшканні семінарыі і друкарні). На працягу 19—20 ст. касцёл неаднаразова рамантаваўся, але яго архітэктурнае аблічча заставалася нязменным. У 1818 жылы корпус быў драўляны. Каля 1831 кармеліты, відаць, пакінулі Магілёў. Пасля 1860 касцёл стаў парафіяльным і атрымаў былую назву. У 20 ст. ў ім размяшчаўся гістарычны (з 1935), потым Дзярж. архіў Магілёўскай вобл. (1964—86). У 1990 касцёл зноў стаў дзеючым, з 1991 архікафедральны сабор Мінска-Магілёўскай архіепархіі.

Фрэскавая размалёўка касцёла выканана ў 1765—67 (у раскрытым надпісе ў паўд.-зах. куце хораў побач з датай зафіксаваны імёны прыёра Януарыя Швабовіча і мастака Юзафа) і 1780-я г. Панаўлялася ў 1860-я г. (мастак Ф.Ферст), на мяжы 19 і 20 ст., рэстаўрыравалася ў 1980—90-я г. На скляпеннях цэнтр. нефа знаходзяцца фрэскі «Праабражэнне», «Перадача ключоў апосталу Пятру» з выявай анёлаў, якія ўзносяць атрыбуты папскай улады, «Ушэсце Марыі». Яны захоўваюць панаўленні 1860-х г. (рэшткі кампазіцыі «Лепта ўдавы» на апошнім з названых размалёвак). Прадстаўленыя на размалёўках падзеі разгортваюцца на фоне архітэктуры ці расчыненых ня-



**Магілёўскі кляштар** кармелітаў. Размалёўка скляпення касцёла.



бёсаў і знаходзяцца ў ілюзіорным архітэктурным абрамленні, якое садзейнічае стварэнню прасторавага эфекту. Стылістычныя асаблівасці і дакументальныя звесткі дазваляюць звязаць іх з мастаком А.Главацкім (1750—1811), які ў 1780-я г. працаваў на Магілёўшчыне і валодаў майстэрствам стварэння складаных ілюзіорных архітэктурных канструкцый. У прамавугольных нішах сцен цэнтр. нефа знаходзяцца размалёўкі на сюжэты з гісторыі ордэна кармелітаў і жыцця святых гэтай кангрэгацыі, якія адносяцца да 1-га этапа размалёўкі: Сцэна надання ордэнскага статута папам Ганорыеям III у 1226 (ён зацвердзіў таксама статуты дамініканцаў і францысканцаў, чые фігуры відаць у левай частцы фрэскі) і эпізод з гісторыі магілёўскіх кармелітаў з падрабязна перададзеным выглядам горада знаходзяцца на паўд. сцяне. Тут жа размяшчаецца выява святой у кармеліцкім адзенні перад Хрыстом і Маці Божай, відаць, Марыі Магдаліны дэ Пацы (1566—1607, кананізавана ў 1669). На процілеглай сцяне прадстаўлены св. Тэрэза (1515—1582, кананізавана ў 1622) з анёламі, адзін з якіх трымае стралу і яе сэрца, а таксама пропаведзь св. Анёла (1185—1220, культ распаўсюдзіўся з XVI ст.) і яго сустрэча з Дамінікам і Францыскам Асізскім. У прэсбітэрыі абапал алтарных выяў Дабравешчання і Ушэсця Маці Божай у абрамленні, якое імітуе складаныя архітэктурныя формы, намаляваны кармеліт з хлопчыкам сярод людзей у імклівым рачным патоку і забойства св. Анёла. Пры характэрнай для барока драматычнасці і дыдактычнасці выяў гэтым фрэскам уласцівы дынамізм кампазіцыі і мяккая, але дастаткова мажорная каларыстычная гама. На скляпенні паўд. бакавога нефа размяшчаецца унікальная кампазіцыя— манах-кармеліт перад карцінай «Юзаф з малым Хрыстом». Індывідуалізаваныя рысы твару мастака дазваляюць бачыць у выяве аўтапартрэт. Побач знаходзіцца фрэска, на якой паказана смерць Юзафа і адзін з эпізодаў жыцця Юзафа Прыгожага. Скляпенні паўн. бакавога нефа займаюць сцэны пакут святых Себасцьяна і Лаўрэнція, выява анёлаў, што падтрымліваюць хусту з адбіткам твару Хрыста ў цярновым вянку. На зах. сцяне над хорамі прадстаўлены святыя і анёлы, якія музіцыруюць. У прытворы на скляпеннях захаваліся 3 кампазіцыі на біблейскія тэмы. Сярод іх «Каін забівае Авеля» і «Ахвярапрынашэнне Аўраама». Рэшткі сюжэтнай размалёўкі знаходзяцца і ў паўн. капліцы. У дэкоры інтэр'ера шырока ўжыты ракайлевы арнамент з картушамі, дзе размешчаны геральдычныя выявы, манаграмы Хрыста, імітацыя мармуру.

*Літ.*: Трыфанава Н.Я. Асобныя помнікі мастацкай культуры ўсходняй Беларусі ў святле архіўных дакументаў // Паведамленні Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Мн., 1997. Вып. 2; Трыфанава Н.Я., Цэйтліна М.М. Роспісы касцёла св. Станіслава (Узнясення Маці Божай) у Магілёве // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998.

***Вадзім Глінік*** **(архітэктура),**
***Наталля Трыфанава*** **(фрэскі).**



**Магілёўскі Мікольскі манастыр.**

**Магілёўскі Мікольскі манастыр.** У 1636 кароль Уладзіслаў IV даў прывілей мітрапаліту Пятру Магіле на будаўніцтва ў Магілёве царквы св. Мікалая. Спачатку былі ўзведзены драўляная царква і адначасова драўляныя манаскія келлі. Мураваная царква пабудавана на месцы драўлянай у 1669—72. Манастыры да 1719 жаночы, пасля мужчынскі, у 1754 зачынены.

Мікольская царква — 3-апсідная крыжова-купальная базіліка з 8-гранным светлавым барабанам і цыбулепадобным купалам над сяродкрыжжам. Гал. фасад падзелены карнізамі на 3 гарызантальныя ярусы і завершаны 2 вежамі з фігурным франтонам паміж імі. 1-ы (ніжні) ярус — масіўны, аздоблены 3 паўцыркульнымі нішамі, 2-і аздоблены «глухой» аркатурай з ляпным раслінным арнаментам і спаранымі нішамі з гіркамі, у 3-м — такі ж аркатурны матыў больш насычаны дэкаратыўнай аздобай. Гал. ўваход вылучаны 8-гранным тамбурам (позняя пабудова). Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, крылы трансепта завершаны фігурнымі шчытамі. У інтэр'еры 2 рады калон падзяляюць прастору на 3 нефы. Цэнтр. неф і трансепт перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя нефы — крыжовымі. Над уваходам размешчаны хоры. 4-ярусны іканастас (скразная разьба па дрэве, пазалота) выкананы мясц. майстрамі. Скляпенні купала ўпрыгожаны фрэскавай кампазіцыяй канца 17 ст. «Тройца новазапаветная», на ветразях выявы 4 евангелістаў з сімваламі. Сюжэтныя сцэны на бібілейскія і евангельскія тэмы, размешчаныя на 2 узроўнях паміж аконнымі праёмамі барабана (зберагалося 19 кампазіцый), створаны ў 1-й пал. 18 ст. У алтарнай частцы — сюжэтны і арнаментальны жывапіс канца 18—пач. 19 ст. Размалёўкі зроблены ў тэхніцы фрэскі і клеявымі фарбамі. Колеравая гама стрыманая светлая, цёплых таноў; пераважаюць вохра з адценнямі, ружова-чорны, жоўта-карычневы колер з дамешкам зялёнага, блакітна-сіняга. Тыпаж простанародны, у сцэны ўведзены скупы пейзаж. Размалёўкі сцен зберагліся часткова.

Побач з Мікольскай царквой у 1798 пабудавана Ануфрыеўская царква. У 17 ст. ўзведзены шпіталь і царкоўны жылы дом. Аднапавярховы ў плане будынак далучаны да паўд. боку агароджы. Тарцовы фасад завершаны шчытом фігурнага абрысу і дэкарыраваны 3 спаранымі арачнымі нішамі. Агароджа з брамай будавалася ў 17—18 ст. Уяўляе сабой мураваную глухую сцяну, якая абкружае трапецападобную тэрыторыю; дэкарыравана аркатурным поясам, мае 2 уваходы (з зах. і ўсх. бакоў). Заходні — гал. ўязная брама з лучковым праёмам. У паўд.-ўсх. баку агароджы ўбудавана 1-павярховая квадратная ў плане шатровая капліца. Званіца ўзведзена ў 17—18 ст. у паўд.-зах. баку агароджы. Квадратнае ў плане 2-яруснае збудаванне з высокім шатровым дахам. Першы чацверыковы ярус — глухі, грані дэкарыраваны арачнымі нішамі, вуглы — пілястрамі, другі — 6-гранны, мае арачныя праёмы (праз адну на кожнай грані). Мікольская царква была зачынена ў 1934. Комплекс пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну, у 1956—90-х г. адрэстаўрыраваны. У 1991 манастыр зноў адчынены. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 301.

*Літ.*: Чарняўская Т. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада. Мн., 1973; Флиер А.Я. Никольская церковь в Могилеве // Архитектурное наследство. М., 1984. Вып. 32.

***Тамара Чарняўская.***

**Магілёўскі Спаскі манастыр.** Драўляная Спаская царква ў Магілёве вядома з 1478. У 1594 пабудавана новая, драўляная (згарэла ў 1708). З канца 15 ст. пры царкве існавалі драўляныя будынкі, дзе размяшчаліся манаскія келлі. У 1588 пры манастыры зацверджана брацтва, якое праіснавала да 1618. У 1618 манастыр перайшоў да уніятаў, з 2-й пал. 17 ст. вярнуўся да праваслаўных. У 1660 пры манастыры адчынілася школа.

У 1740—42 магілёўскі епіскап Іосіф Ваўчанскі замест драўлянай пачаў будаваць мураваную Спаса-Праабражэнскую царкву. Будаўніцтва закончана (без даху) да 1748 пад кіраўніцтвам епіскапа Іераніма Ваўчанскага. У 1748 будынак згарэў, засталіся муры і сцены. З 1756 будаўніцтвам царквы кіраваў архіепіскап Георгій Каніскі. Які запрасіў з Вільні вядомага архітэктара І.К.*Глаўбіца*, паводле праекта якога ў 1762 царква ўзведзена. Да 1802 была кафедральным саборам Магілёва. Размяшчалася на высокім беразе Дняпра, у глыбіні квартала. Уяўляла сабой крыжова-купальны храм з 2-вежавым гал. фасадам. Над сяродкрыжжам на высокім светлавым 8-гранным барабане ўзвышаўся сферычны купал, завершаны галоўкай. Да глухіх граней барабана далучаліся чатыры 2-ярусныя вежачкі з невысокімі купаламі, якія разам стваралі 5-купальную кампазіцыю. Гал. фасад завяршалі 2-ярусныя вежы, паміж якімі размяшчаўся высокі ступеньчатага абрысу франтон. Сцены фасадаў завяршаліся шырокім тонкапрафіляваным карнізам, рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі з дэкаратыўнымі ляпнымі дэталямі, паміж вокнамі — спараныя пілястры з дарычнымі капітэлямі. У інтэр'еры 4 цэнтр. слупы пры дапамозе падпружных арак падтрымлівалі купал на ветразях. Інтэр'ер быў багата аздоблены, тут знаходзіліся творы магілёўскіх майстроў: жывапісца Мірона Пігарэвіча і чаканшчыка Пятра Сліжыка.



Царква **Магілёўскага Спаскага манастыра**. Фота пач. 20 ст.

У 1785 скончана будаўніцтва мураванай агароджы з брамай і 2-яруснай званіцай і манастырскага комплексу. Царква разбурана ў Вял. Айч. вайну. Г-падобны ў плане манастырскі корпус разам з агароджай абкружаў усю тэрыторыю манастыра і ўтвараў трапецападобны ў плане ўнутраны дворык. Да манастырскага корпуса далучаліся гандлёвыя рады з арачнымі ўваходамі, што вялі ў крамы. Манастырскі корпус складаўся з 2-павярховай часткі (дзе размяшчалася кансісторыя), 1-павярховага крыла (келлі, убудаваная царква, гасп. памяшканні). Захаваўся 2-павярховы корпус, які тарцовым фасадам выходзіў на вул. Ветраную, і частка 1-павярховага крыла. Гал. фасад 2-павярховага (з падвалам) корпуса аздоблены на ўсю вышыню пілястрамі і іанічнымі капітэлямі. Высокія прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі з замковым каменнем, падаконнымі прамавугольнымі нішамі. Фасады 1-павярховага крыла расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі, міжаконнымі лапаткамі. Унутраная планіроўка зменена.

*Літ.*: Чарняўская Т. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада. Мн., 1973; Квитницкая Е.Д. Могилевский Спасский монастырь // Архитектурное наследство. М., 1976. Вып. 24.

***Тамара Чарняўская.***

**Магілёўскі фарны касцёл** св. Казіміра. Пабудаваны ў 1604 па фундацыі караля Жыгімонта III, у 1810 перабудаваны. Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане храм з бакавымі прыбудовамі, 5-граннай алтарнай апсідай і 2-вежавым гал. фасадам. Перабудаваны ў 19 ст. ў стылі класіцызму. Усх. і зах. фасады былі вырашаны ў выглядзе класічных порцікаў. Аб'ём завершаны драўляным купалам на нізкім барабане. Хоры, дзе размяшчаўся сямігалосы арган, падтрымліваліся 4 драўлянымі слупамі. Тры алтары былі ўпрыгожаны драўлянай скульптурай. Захаваўся часткова.

***Вольга Кукуня.***

**магілёўскія паўстанні 1606—10,** выступленні раменнікаў і гарадской бедняты Магілёва супраць магістрата. Прычынай выступлення 1606 сталі злоўжыванні ўладай магістратам, непасільныя падаткі і грашовыя паборы. Паўстанне ўзначаліла група раменнікаў пад кіраўніцтвам старасты цэха саладоўнікаў Стахора Міткавіча. Гар. масы, адхіленыя ад выбараў службовых асоб магістрата, абураліся, што багацеі «раду мескую сами межи собою... собе обирают, нас до жадное справы и ведомости не припущаючи и овшем зав-



жды при каждой схажце нашей тлумечы вольные голосы нашы». 19, 20 і 22.6.1606 некалькі соцень гараджан на чале са Стахорам Міткавічам запатрабавалі спыніць злоўжыванні асобных членаў гар. рады, а 25.6.1606 выступілі супраць усяго магістрата і «зверхности вряду войтовского». 15 ліп. яны скінулі раду і абралі новы склад магістрата. Аднак выбары праходзілі «не звычайне», а з парушэннем правіл, устаноўленых каралеўскімі граматамі. Замест багатых купцоў і ліхвяроў паўстанцы абралі «людей легких, права и писма не умеетных». Адзін з членаў новага складу магістрата быў «вандроўны чалавек», г.зн. неаселы жыхар Магілёва Ходка Багданавіч. Новы магістрат выступаў як адм., фінансавы і судовы орган. Паводле скаргі скінутай рады ў войтаўскі суд войт Г.Р.Валовіч 11.9.1606 адхіліў новы склад рады, загадаў перадаць уладу ў горадзе ранейшай радзе і прызначыў на 16.10.1606 новыя выбары. Аднак рашэнне войта не было выканана. У справу вымушана была ўмяшацца вярхоўная ўлада. Кароль Жыгімонт III у лісце да гараджан вызначыў, што канфлікт павінен быць вырашаны ў каралеўскім судзе, а 6.6.1607 выдаў ахоўную грамату магіляўчанам, якія не падпарадкаваліся новай радзе. Прымаліся захады, каб раскалоць адзінства ў новай радзе і схіліць яе да пагаднення са старой. 22.8.1608 у канцылярыі ВКЛ пры ўдзеле канцлера ВКЛ, магілёўскага старасты Л.Сапегі паміж упаўнаважанымі абодвух складаў магістрата была падпісана дамова: новая рада, за выключэннем бурмістра Ходкі Багданавіча, прыгаворанага каралеўскім дэкрэтам да смяротнага пакарання, павінна была «дабыць свой тэрмін» (да 11.11.1608) і перадаць уладу ранейшаму складу рады, што і было зроблена. Такім чынам, пасля больш чым 2-гадовага праўлення паўстанцаў улада ў горадзе зноў перайшла да багатых купецкіх вярхоў. Барацьба супраць магістрата працягвалася і ў наступныя гады. У выніку яе ў 1610 арганізатары выступленняў былі прыцягнуты да судовай адказнасці. Яны былі абвінавачаны ў тым, што «бунты і разрухі ў горадзе строілі, чалавека паспалітага ад паслушэнства ўраду адводзілі, на ратушу гвалтоўна нападалі і вароты да яе выламывалі, на гвалт над урадам звалі і заклікалі і раду патапіць пагражалі». Кіраўнікоў выступленняў Івана Харкавіча, Міхаіла Чабатара, Лаўра Міхайлавіча, Мікіту Мількавіча і Гаўрылу Іванавіча суд прыгаварыў да смяротнага пакарання, якое адбылося 29.7.1610 на Ільінскай гары ў Магілёве. Максім Тальбуша і Ісай Шчэнсны былі засуджаны да 12-тыднёвага зняволення, пасля адбыцця якога катаваны каля ганебнага слупа і выгнаны з горада з забаронаю пражываць бліжэй за 30 міль ад Магілёва. Маёмасць усіх асуджаных была канфіскавана.

*Літ.*: Беларускі архіў. Мн., 1927. Т. 1. С. 79—92; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 426—439; Мелешко В.И. Могилев в XVI—середине XVII в. Мн., 1988. С. 206—211.

***Васіль Мялешка.***

**Магільнянская бітва 1284.** Паводле бел.-літ. летапісаў, адбылася каля в. Магільна (Уздзенскі р-н) на р. Нёман паміж вял. князем літоўскім Рынгольтам і кааліцыяй рус. князёў (Святаславам кіеўскім, Львом уладзімірскім, Дзмітрыем друцкім), якія ў саюзе з татарамі хацелі «знову Литву под ярмо першое... привести». На баку Рынгольта акрамя літоўцаў удзельнічала і «свая Русь». Войскі Рынгольта знянацку і «з великим окриком» напалі на праціўніка. Бітва працягвалася з ранку да вечара і скончылася на карысць Рынгольта. Кааліцыя рус. князёў і татараў панесла страты ў 40 тыс. чал., у палон трапіла 1 тыс. чал. Страты войска Рынгольта склалі 700 чал. забітымі і 200 параненымі. Звесткі пра М.б. адносяцца да паўлегендарных. Існаванне князёў, якія ўдзельнічалі ў бітве, інш. крыніцамі не пацвярджаецца. Але прымаючы пад увагу, што ў 13—14 ст. татары неаднаразова хадзілі «на Літву» і пры гэтым разам з імі ўдзельнічалі ўладзіміра-валынскія князі, можна дапусціць, што летапісны расказ абапіраецца на рэальныя падзеі. Праўдападобна выглядае прывязка бітвы да в. Магільна. Тут Нёман мае шырокую абалонь і мелкае дно, спрыяльныя для пераправы войска. У 13 ст. тут існавала паселішча, што зафіксавана археалагічна. У 15—пач. 16 ст. насупраць гэтага паселішча каля пераправы збудаваны *Магільнянскі замак*.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т 32, 35. М., 1975, 1980.

***Лявон Калядзінскі.***

**Магільнянскі замак.** Існаваў у пач. 16—17 ст. ў мяст. Магільна Новагародскага пав. (цяпер вёска Уздзенскага р-на). Пабудаваны з дрэва віцебскім ваяводам С.Пацам на правым беразе Нёмана. Чатырохвугольная ў плане пляцоўка замка (110 x 65 м) была абкружана валам і аддзелена ад прызамча глыбокім (каля 8 м) ровам. Ва ўсх. частцы пляцоўкі існаваў бастыёнападобны выступ. Замак меў уязную браму з пад'ёмным мостам і не менш як 4 вуглавыя вежы. Паводле інвентару 1563, у М.з. была розная агнястрэльная зброя, у т.л. гарматы. Замак страціў ролю абарончага пункта ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Пазней у гіст. крыніцах ён не згадваецца. Археал. даследаванні М.з. праводзілі А.Р.Мітрафанаў (1951), Г.В.Штыхаў (1975), Л.У.Калядзінскі (1977—79), М.М.Чарняўскі (1979).

***Міхась Ткачоў.***

**магістрат** (ад лац. magistratus начальнік, чыноўнік, улада, кіраўнік), выбарны адміністрацыйны і судовы орган гарадскога самакіравання ў гарадах, якія мелі права на самакіраванне (*магдэбургскае права* або іншае). У ВКЛ уводзіліся з канца 14—15 ст. У вялікакняжацкіх гарадах Беларусі і Літвы М. складаўся з гар. рады і лавы. Рада займалася справамі гар. кіравання і суда па маёмасных і цывільных справах мяшчан. Лава выконвала функцыі суда па крымінальных справах гараджан. Парадак утварэння і кампетэнцыю гар. органаў самакіравання ўстанаўліваўся ў прывілеі на магдэбургскае права. Замест ранейшых улады і суда старасты (намесніка вял. князя) улада і суд у гарадах пераходзілі да *войта, лаўнікаў, бурмістраў* і *радцаў* (райцаў). Найб. ранняй пасадай у сістэме самакіравання быў войт. Ён выконваў гал. распарадчую ўладу ў гар. абшчыне і ўзначальваў *войтаўскі суд* або *войтаўска-лаўніцкі суд* (лаву). Гал. органам самакіравання была гар. рада, якая складалася з бурмістраў і радцаў. Бурмістры па чарзе вялі пасяджэнне рады, радцы выказваліся па розных пытаннях і разам з бурмістрамі прымалі рашэнні. Дзейнічаў *бурмістраўска-радзецкі суд*. У прыватнаўладальніцкіх гарадах у склад М. ўваходзілі войт, бурмістры, радцы, лаўнікі і гар. пісар, якія ўсе засядалі разам, хоць паводле норм маг-

дэбургскага права лаўнікі з войтам складалі асобную калегію і ў склад рады не ўваходзілі. Цвёрда вызначанай колькасці членаў рады не было, звычайна яна набліжалася да 12 (гэта лічба лічылася класічным узорам). У Нясвіжы ў 1620 быў бурмістр, 3 радцы, 3 лаўнікі, а ў 2-й пал. 18 ст. штогод засядалі войт, бурмістр, радца, 2 лаўнікі і пісар (яны мяняліся па чарзе, усяго ў М. былі 4 бурмістры, 4 радцы, 4 лаўнікі, войт і пісар). У Друі акрамя войта і пісара было па 3 бурмістры, радцы і лаўнікі, штогод засядала чарговая група па адным на кожнай пасадзе, да іх далучаліся 9 «мужоў» (па 3 штогод). Выбраныя ў М. Друі праходзілі своеасаблівую службовую лесвіцу, паступова займаючы пасады ад «мужа» да бурмістра. У 17—18 ст. у М. часта дзесяцігоддзямі засядалі прадстаўнікі некалькіх сямей, звычайна з заможных купцоў і цэхмістраў, М. ператвараўся ў орган карпаратыўнага кіравання горадам з боку мяшчанскай алігархіі. У час ваен. дзеянняў абарону горада ўзначальваў М. Ён фарміраваў з мяшчан ваен. атрады (*міліцыю*), да якіх далучаў і інш. жыхароў горада. М. на аснове магдэбургскага права праіснавалі на Беларусі да канца 18 ст. і былі скасаваны пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі ўказамі Кацярыны II у 1775 (для ўсх. часткі Беларусі) і 1795 (для цэнтр. і зах. яе частак).

*Літ.*: Владимирский-Буданов М.Ф. Немецкое право в Польше и Литве. СПб., 1868; Дружчыц В.Д. Магістрат у Беларускіх местах з Майдэборскім правам у XV—XVII сталецьцях // Зап. аддзелу гуманітарных навук БАН. Мн., 1929. Кн. 8; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979; Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**магія**, гл. *Чарадзейства.*

**магнаты** (позналац. адзіночны лік magnatus багаты, значны чалавек), буйныя феадалы-землеўладальнікі, прадстаўнікі радавітай знаці, арыстакратычныя вярхі класа феадалаў у краінах Еўропы. У ВКЛ М. — нашчадкі ўдзельных князёў (*княжаты*), прадстаўнікі знатных феад. родаў, якія валодалі вял. латыфундыямі з гарадамі, мястэчкамі і тысячамі сялянскіх *дымоў*. Буйныя феад. маёнткі пачалі ствараццa ў ВКЛ з канца 14 ст. Магнацкія роды існавалі некалькі стагоддзяў. Паводле попісу войска ВКЛ 1528, на Беларусі былі 23 М., якія мелі больш за 1000 сялянскіх дымоў. Яны сканцэнтравалі ў сваіх руках 1/6 усіх уладанняў феадалаў. З іх 11 былі літ. паходжання, 10 бел., 1 польск., 1 рускага. Паводле попісу войска ВКЛ 1567, М., якія валодалі больш як 1000 сялянскіх дымоў, было на бел. землях 29. Яны складалі менш як 1% усіх феадалаў, валодалі 42,5% усіх сялянскіх гаспадарак. З іх 13 былі літ. паходжання, 9 бел., 5 укр., 2 рускага. У 1528 з сялянскіх дымоў, што былі ў феадалаў, 36,8% належалі 41 магнацкаму роду (з іх 18 літ. паходжання, у т.л. 5 праваслаўных, 17 бел., 5 укр., 1 польск.). З 37 магнатаў у 1567 на бел. землях літ. паходжання было 13, бел. 8, укр. 13, польск. 2, рус. 1. Прадстаўнікі магнацкіх сямей займалі вышэйшыя пасады ў ВКЛ (маршалкаў, канцлера, гетманаў, віленскага ваяводы і інш.). Пасля Люблінскай уніі 1569 М. захоўвалі гегемонію ў дзяржаве, нягледзячы на фармальнае раўнапраўе ўсяго шляхецкага саслоўя. Яны мелі ўласныя войскі, на чале іх ішлі на вайну. Маёнткі М. вызваляліся ад некаторых дзярж. павіннасцей. Бязладдзе і анархія, якую яны падтрымлівалі ў сваіх інтарэсах, аслабілі Рэч Паспалітую, што садзейнічала яе падзелам у 1772, 1793 і 1795. Найб. вядомыя магнацкія роды, якія адыгрывалі значную ролю ў грамадска-паліт. і культ. жыцці: *Агінскія, Алелькавічы, Астрожскія, Бжастоўскія, Валовічы, Вішнявецкія, Гальшанскія, Гарнастаі, Гаштольды, Глінскія, Глябовічы, Друцкія, Забярэзінскія, Збаражскія, Іллінічы, Кезгайлы, Кішкі, Лукомскія, Масальскія, Осцікі, Пацы, Радзівілы, Саламярэцкія, Сангушкі, Сапегі, Тышкевічы, Хадкевічы, Храптовічы, Чартарыйскія.*

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Магнус**, Монс (Magnus, Mons) Олаўс (кастр. 1490—1.8.1558), шведскі каталіцкі святар, асветнік. Высланы са Швецыі як праціўнік Рэфармацыі, але выконваў дыпламатычныя даручэнні караля Густава I Вазы, часам інш. манархаў, у т.л. вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I Старога. Збіраў матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Усх. Еўропы, падтрымліваў кантакты з Б.*Вапоўскім*. Аўтар «Гісторыі паўночных народаў» («Historia de gentibus septentrionalibus», Рым, 1555), якая змяшчала гіст. і этнаграфічныя звесткі пра ВКЛ, падрабязна апісвала пасольства дыпламата ВКЛ М.Гедройца ў Маскву ў 1551. На «Марской карце Скандынавіі» («Carta marina et descriptio septemtrionalium terrarum...», Венецыя, 1539) змясціў Белую Русь і Чорную Русь (Russia alba, Russia regalis nigra), якія, на яго думку, не ўваходзілі ў ВКЛ або Маскоўскую дзяржаву і былі лакалізаваныя ў Паўн.-Зах. Русі. Белая Русь, у якую М. уключаў Іжорскую зямлю, пазначана паміж Фінскім залівам і Чудскім воз. і аддзелена р. Нарова ад Маскоўскай дзяржавы; Чорная Русь — на ПдЗ ад Белай Русі, паміж р. Вялікая і Зах. Дзвіна. Прытрымліваўся традыцыі, паводле якой у зах.-еўрап. пісьмовых крыніцах («Апісанне зямель» з Дублінскага рукапісу 13 ст., «Трактат пра дзве Сарматыі» Мацея з Мехава, «Кніга пра Маскоўскае пасольства» П.Джовія) і на картах (Фра Маўра 1459, Эйхштэцкай 1491, Р.Райша 1513 і інш.) Белую Русь змяшчалі на У ад Скандынавіі, у ваколіцах Ноўгарада, лічачы яе інш. назвай Наўгародскай зямлі або яе часткі, заселенай вессю (вепсамі).

*Літ.*: Савельева Е.А. «Морская карта» Олауса Магнуса и ее значение для европейской картографии // История географических знаний и открытий на Севере Европы. Л., 1973; Яе ж. Олаус Магнус и его «История северных народов». Л., 1983.

***Алесь Белы.***

**Маджарскія**, Маджаранцы, армянскія майстры-ткачы і арандатары *Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў.*

Ян (Аванес; ?, Стамбул або Семіграддзе—1800 ці 1801), у 1740-я г. вырабляў паясы ў г. Станіслаў (Украіна), у 1758 запрошаны віленскім ваяводам М.К.Радзівілам Рыбанькам у Нясвіж, потым у Слуцк кіраваць мануфактурай па вырабе слуцкіх паясоў, у 1776—77 арандатар мануфактуры. Унёс у распрацоўку паясоў мастацкія традыцыі Малой Азіі, Сірыі, Персіі.




**Магнус** О. Марская карта Скандынавіі. Венецыя. 1539. Фрагмент.

Л я в о н (каля 1740, Стамбул—1811), сын Яна. У 1777—1807 арандаваў Слуцкую мануфактуру, якая стала пры ім буйным прадпрыемствам.

***Аксана Варатнікова.***

**Маерберг** (Meyerberg) Аўгусцін (жн. 1612, Сілезія—23.3.1688), аўстрыйскі дыпламат. Сапраўднае прозвішча фон Маерн, з 1666 меў тытул барона фон М. У 1661 імператар Леапольд I адправіў яго паслом у Расію з мэтай садзейнічаць заключэнню міру з Рэччу Паспалітай (гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*). На зваротным шляху правёў каля 9 месяцаў у ВКЛ (май 1662—люты 1663), праехаў па Дняпры ад Смаленска да Магілёва, адтуль праз Менск і Барысаў у Вільню. У 1663 апублікаваў кнігу «Падарожжа ў Масковію» з апісаннем свайго пасольства, падрабязным экскурсам у гісторыю Маскоўскай дзяржавы, у т.л. яе ўзаемаадносін з ВКЛ і Рэччу Паспалітай. Прывёў звесткі пра забойства гетмана В.Гасеўскага (адбылося ў час знаходжання М. ў Вільні), пра архітэктуру, побыт жыхароў і прыроду ваколіц Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова, Быхава, Магілёва, Барысава, Менска. Адзначыў, што пад Белай Руссю ў Расіі разумеюць «вобласці паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною, з гарадамі Навагародкам, Менскам, Мсціславам, Смаленскам, Віцебскам і Полацкам».

*Тв.*: Рус. пер. — Путешествие в Московию. М., 1874; Донесение императору Леопольду I о своем посольстве в Московию. М., 1882; Альбом Мейерберга: Виды и бытовые картины России XVII в. СПб., 1903; Путешествие в Московию // История России и дома Романовых в мемуарах современников XVII—XX вв.: Утверждение династии. М., 1997.

*Літ.*: А д е л у н г Ф. Барон Мейерберг и путешествие его по России: Пер. с нем. СПб., 1827; Г р ы ц к е в і ч В.П., М а л ь д з і с А.І. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Алесь Белы.***



Да арт. **Маёліка**. Фрагменты маёлікавага посуду. 1-я пал. 16 ст.



Да арт. **Маёліка**. Фрагменты маёлікавага посуду з Італіі і Турцыі. 16—17 ст.

**маёліка**, від керамікі з паверхняй, пакрытай свінцова-алавянай палівай (эмаллю). Паліва з павышанай колькасцю волава, у адрозненне ад свінцовай, утварае непразрыстае пакрыццё, якое з'яўляецца выдатным грунтам для размалёўкі. Падчас абпалу алавяныя палівы менш расцякаюцца і змешваюцца адна з адной. Абодва фактары спрыялі таму, што тэхналогія М. шырока выкарыстоўвалася для вытворчасці мастацкай керамікі. Першымі выкарысталі свінцова-алавяныя палівы асірыйцы 3 тыс. гадоў назад. У 8—12 ст. эмалі выкарыстоўвалі персідскія і егіпецкія

керамісты, майстры ў Візантыі, у суседніх з ёю балканскіх краінах і ва ўсх.-слав. землях (у т.л. ў бел. гарадах — Віцебску, Гародні, Друцку, Лагойску, Менску, Пінску, Полацку). З Паўн. Афрыкі тэхналогія была перанесена ў Іспанію, адкуль трапіла ў Італію, дасягнуўшы свайго росквіту ў перыяд Адраджэння. Менавіта тут кераміка з эмалевым пакрыццём і атрымала назву М.

У ВКЛ вытворчасць керамікі з эмалевым пакрыццём звязана з уплывам італьянскай рэнесансавай культуры і з асобай каралевы *Боны* Сфорца. У пач. 16 ст. для рэканструкцыі Вавельскага замка ў Кракаве былі запрошаны майстры з Італіі, у т.л. керамісты, якія павінны былі зрабіць паліхромныя кафлі для печаў. Тады ж адбылася рэканструкцыя *Віленскага велікакняжацкага палаца*: пач. 16 ст. тут датуюцца знаходкі маёлікавай паліхромнай кафлі. Ідэнтычны па асартыменце, тэхналогіі і арнаментыцы матэрыял выяўлены пры археал. даследаванні *Гарадоцкага замка*. Як паказваюць археал. знаходкі (замкі ў Лідзе, Іказні, Міры, Віцебску), ва ўжытку арыстакратыі ВКЛ былі маёлікавыя рэчы як вядомых італьянскіх цэнтраў і майстроў 16 ст. (Фаэнца, Дэрута, кераміст Нікола Пеліпарыо), так і распаўсюджаныя па ўсёй Еўропе вырабы турэцкіх керамічных цэнтраў 16—17 ст. (Ізнік). У 2-й пал. 16 ст. маёлікавая тэхналогія была выкарыстана для аздаблення глінянага посуду: спачатку талерак, пазней збаноў, куфляў і інш. Яны служылі для ўпрыгожвання інтэр'ераў у 16—18 ст. На археал. матэрыяле з гарадоў і замкаў ВКЛ прасочваецца эвалюцыя прыёмаў нанясення эмаляў і размалёўкі керамічнай паверхні, развіццё асартыменту вырабаў, а таксама змяненне стылістыкі арнаментальных кампазіцый. Росквіт вытворчасці дэкаратыўнай М. прыпадае на канец 16—17 ст. Аснову асартыменту маёлікавай прадукцыі ў 16—сярэдзіне 17 ст. складала пячная кафля. У гэты перыяд яна характарызуецца выразным пластычным арнаментам, размешчаным па ўсёй паверхні вонкавай пласціны. Тэматыка кампазіцый адрозніваецца вял. разнастайнасцю сюжэтаў. У іх прасочваецца значны ўплыў зах.-еўрап. мастацтва, што сведчыць пра шляхі запазычання новага віду керамічнай вытворчасці. У пач. 17 ст.





Да арт. **Маёліка**. Маёлікавая кафля з раскопак Гарадоцкага замка (Маладзечанскі р-н). 1-я пал. 16 ст.



Да арт. **Маёліка**. Маёлікавы куфаль з раскопак Крэўскага замка (Смаргонскі р-н). 1-я пал. 16 ст.

з'явіліся прыкметы барочнага стылю, які да сярэдзіны стагоддзя стаў пануючым. Паступова даволі шырокі размах набыла вытворчасць маёлікавага посуду, у 17 ст. ён стаў надзвычай папулярным элементам пры ўпрыгожванні жылля. У дэкаратыўным аздабленні талерак, куфляў, збаноў, як і ў тэхналогіі нанясення эмаляў, заўважаецца моцны ўплыў турэцкай М. Паступова запазычаныя арнаментальныя матывы адаптаваліся ў адпаведнасці з традыцыямі мясцовай эстэтыкі. Палітра жывапісных кампазіцый М. ВКЛ 16—сярэдзіны 17 ст. вызначаецца кантраснымі спалучэннямі інтэнсіўных сініх, жоўтых, фіялетавых, белых і бірузовых колераў, прычым на адным вырабе прысутнічаюць не менш за 3 (часцей 4) колеры. Перыяд 2-й пал. 17—18 ст. адзначаны ўсталяваннем новай эстэтыкі і новай тэхналогіі ў вытворчасці М. з мэтай імітацыі фаянсу. Актыўная паліхромія саступіла месца рэдкаму арнаменту, спакойнаму па каларыце. Фарбы набылі светлыя адценні, з'явілася шмат белай прасторы. Найб. тыповымі былі кампазіцыі, выпісаныя кобальтам па белай эмалі. У цэлым тэматыка арнаментацыі посуду і кафлі прыкметна звузілася і абмяжоўвалася ў асноўным раслыннымі і геральдычнымі кампазіцыямі, шырока выкарыстоўваліся тыповыя для эстэтыкі барока картушы, стылізаваныя гірлянды і завіткі. У сярэдзіне 18 ст. ў сувязі з распаўсюджаннем моды на фаянс і арганізацыяй уласнай фаянсавай вытворчасці попыт на М. ў асяроддзі арыстакратыі зменшыўся, і яна стала значна больш дэмакратычным таварам. Асабліва гэта адбілася на вытворчасці дэкаратыўнага посуду: у 2-й пал. 18 ст. мастацкі ўзровень і якасць яго відавочна знізіліся, а вытворчасць паступова дэградавала.

*Літ.*: Ганецкая І.У. Маёліка на Беларусі XI—XVIII ст. Мн., 1995; Яе ж. Культурныя ўплывы ў люстэрку мастацкай керамікі XVI—XVIII ст. // Заслаўскія чытанні 1995 года. Заслаўе, 1997.

***Ірына Ганецкая.***



Да арт. **Маёліка**. Фрагменты маёлікавага посуду. 2-я пал. 17 ст.

**Мажайскія**, малодшая лінія маскоўскіх вялікіх князёў. Паходзілі ад Андрэя Дзмітрыевіча (1382—1432), сына вял. кн. маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча Данскога. Андрэй Дзмітрыевіч атрымаў ва ўдзел Мажайск (адсюль прозвішча роду), Вярэю, Калугу, Белавозера.

Ад яго старэйшага сына Івана пайшоў род М., ад малодшага Міхаіла — род князёў *Вярэйскіх*. Найб. вядомыя:

Іван Андрэевіч (?—да 1483), сын Андрэя Дзмітрыевіча. У час вайны ў Расіі 1425—53 за маскоўскі велікакняжацкі пасад дапамог кн. Дзмітрыю Шамяку ў 1446 захапіць Маскву і скінуць вял. кн. Васіля II. Пасля вяртання апошняга на пасад у 1446—47 уцёк у ВКЛ. Прапаноўваў планы з дапамогай Казіміра заняць пасад вял. князя маскоўскага. Потым вярнуўся ў Расію, удзельнічаў у заключэнні дагавора Васіля II з Казімірам у 1449. У 1454 зноў уцёк у ВКЛ. Казімір падараваў яму Гомель, Бранск, Старадуб. Каля 1465 Іван Андрэевіч заключыў дагавор з кн. Іванам Васілевічам Бароўскім аб адваяванні ў Васіля II сваіх былых вотчын, зноў прэтэндаваў на пасад вял. князя маскоўскага.

Андрэй Іванавіч (?—1487), сын Івана Андрэевіча. Валодаў пасля бацькі Бранскам і сёламі ў Гомельскай воласці. У 1486 у выніку канфлікту з бранцамі, у час якога быў забіты яго сын Фёдар, пазбаўлены горада, атрымаў ад Казіміра даніну з новагародскага мыта. Выслужыў у Казіміра Свержань.

Сямён Іванавіч (?—каля 1505), сын Івана Андрэевіча. Трымаў пасля бацькі Гомель і Старадуб. Удзельнічаў у *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94*, абараняў Сярпейск і Мезецк. Вял. князь літоўскі Аляксандр у 1496 падараваў Сямёну Іванавічу Чарнігаў і Карачаў, пазней — Хоцімль. У 1497 удзельнічаў у паходзе на Малдову. У 1500 у час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* перайшоў з усімі сваімі ўладаннямі на бок Івана III і ваяваў супраць ВКЛ (удзельнічаў у аблозе Мсціслава і Смаленска). Захапіў Любеч, які перайшоў яму ў вотчыну. Прызваны таксама князем Старадубскім.

Васіль Сямёнавіч (?—да 1519), сын Сямёна Іванавіча. Валодаў пасля бацькі Гомелем, Старадубам, Чарнігавам, атрымаў ад Івана III Хатунскую воласць. У мірным дагаворы паміж Масквой і ВКЛ 1508 абумоўлена, што вял. князь літоўскі Жыгімонт Стары не мае права ўмешвацца ў справы падуладных Васілю Сямёнавічу валасцей. Памёр без нашчадкаў.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 261—263; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорус. земли в системе рус.-лит. отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995.

***Валерый Пазднякоў.***

**Мажвідас** (Mažvydas) Марцінас (каля 1520—63), літоўскі першадрукар і асветнік. Паходзіў з Літвы, але жыццёвая і творчая дзейнасць звязаны з Усх. Прусіяй (Прускім герцагствам), дзе М. у 1546—48 навучаўся ў Каралявецкім ун-це, а пасля да канца жыцця служыў лютэранскім пастарам у г. Рагніт (цяпер Нёман). Падрыхтаваў і выдаў першую кнігу на літ. мове «Простыя словы катэхізіса» («Catechismvsa prasty szadei», Каралявец, 1547). Акрамя ўласна катэхізічнай часткі кніга змяшчае першы літ. буквар, правілы хрысціянскай этыкі для сялян і 11 царк. спеваў з нотамі, што надавала ёй універсальны і асветніцкі характар. У напісанай у форме акраверша прадмове да выдання М. асудзіў непісьменнасць сялянства, заклікаў да яго асветы на роднай мове, выступіў у абарону літ. традыцыйнай культуры. Падрыхтаваў вял. зборнік літ. царкоўных песень «Спевы хрысціянскія» («Giesmės krikščioniškos»), выдаць які не паспеў (надрукаваны ў 1566—70 у 2 частках Б.*Вілентасам*, стрыечным братам М.). У песнях захаваны пераважна дагрыгарыянскі 8-складовы верш і традыцыйны аднагалосны спеў. Мова і стыль перакладу груваткія, метрыка не заўсёды гарманізавана, што выклікана спалучэннем 2 рытмічных сістэм — сілабічнай (пад уплывам польскай паэзіі) і сілаба-танічнай (уплыў нямецкай паэзіі). Большасць са змешчаных у зборніку твораў пераклаў М. Зборнік лёг у аснову пазнейшых усх.-прускіх пратэстанцкіх выданняў на літ. мове. М. першы ў літ. культуры спалучыў пастырскае служэнне з асветніцкай працай на ніве пісьменства, яго дзейнасць зрабіла значны ўплыў на духоўнае і культурнае развіццё літ. народа, паслужыла прыкладам для паслядоўнікаў (Ё.Брэткунас, М.Даўкша, Д.Клейн і інш.).


CATE-
CHISMVSA PRA-
sty Szadei, Makslas skai-
tima raschta yr giesmes
del krikscžianistes bei del
berneliu iaunu nauiey
sugulditas
KARALIAVCZVI VIII.
dena Menesio Sausia,
Metu vžgimima Diewa.
M. D. XLVII.
Soli Deo gloria

**Мажвідас** М. Катэхізіс. Каралявец, 1547. Тытульны ліст.

*Літ.*: Martinas Mažvydas. Pirmoji lietuviška knyga. Vilnius, 1974; Мартинас Мажвидас и духовная культура Великого княжества Литовского XVI века. Вильнюс; М., 1999; Ulčinaitė E., Jovaišis A. Lietuvių literatūros istorija XIII—XVIII amžius. Vilnius, 2003.

***Алесь Бразгуноў.***

**Мазыр** (цяпер горад, цэнтр Мазырскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Мазырскага павета*, на р. Прыпяць. Упершыню згадваецца пад 1155, знаходзіўся ў Кіеўскім княстве. З сярэдзіны 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 14—18 ст. існаваў драўляны *Мазырскі замак*. У 1497 і 1521 горад спалены крымскімі татарамі. Вял. князь літоўскі Аляксандр у чэрв. 1500 выдаў гораду і воласці ўстаўную грамату, дзе рэгламентавана дзейнасць намесніка і падаткі; 8.12.1510 устаўную грамату выдаў вял. кн. Жыгімонт Стары. У час *Глінскіх мяцяжу 1508* мазырскі намеснік Якуб Івашанцавіч, дваюрадны брат кн. М.Л.Глінскага, здаў князю горад, які павінен быў стаць базай для захопу Кіева. У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1534—37 М. разбураны маскоўскім войскам. У 1552 у горадзе існавалі цэрквы Спаса, Міколы, Прачыстай Багародзіцы; насельніцтва каля 1500 чал. У 16—18 ст. М. — цэнтр гродавага *Мазырскага старaства*, пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66—цэнтр павета Кіеўскага ваяв., пасля Люблінскай уніі 1569 павет у складзе Менскага ваяв. У 1576 у М. каля 2000 жыхароў, 293 мяшчанскія двары. 28.1.1577 кароль Стафан Баторый выдаў М. прывілей на магдэбургскае права (пацверджаны ў 1630, 1680, 1722, 1746). Горад атрымаў



Герб **Мазыра**. 1577.

герб: у блакітным полі чорны арол, у яго на грудзях шыльда з літарай S. (манаграма Стафана Баторыя; некаторы перыяд у 17 ст. на шыльдзе быў герб «Трубы» Радзівілаў). У горадзе адбыліся *Мазырскае паўстанне 1615* і *Мазырскае паўстанне 1649*. У 1616 стараста Б.Стравінскі заснаваў касцёл, у 1645 заснаваны *Мазырскі кляштар бернардзінцаў*. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад заняты рас. войскамі. У 1724 у М. каля 1500 жыхароў. У 1-й пал. 18 ст. пабудаваны базыльянскі манастыр, каля горада — *Кімбараўскія цыстэрцыянскія кляштары*, у 1752 — кляштар марыявітак. У 1723—73 пры парафіяльным касцёле дзейнічала езуіцкая місія. Езуіты з 1726 трымалі школу, якая пасля скасавання ордэна ў 1773 пераўтворана ў свецкае вучылішча, што стала асновай мужчынскай гімназіі. У горадзе ў канцы 18 ст. каля 2000 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Крукоўскі А.Я. Горад Мазыр і яго ваколіцы // Наш край. 1927. № 3; Никитин А.С., Зальцман Е.Е. Мозырь: Ист.-экон. очерк. Мн., 1973; Трусаў А.А., Здановіч Н.І. Новае пра старажытны Мазыр: (па матэрыялах археал. дасслед. 1981—1984 гг.) // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: Новыя матэрыялы і дасслед. Мн., 1993; Бобр А.Г. Мой Мозырь: Ист. очерк. Ч. 1. Мн., 1996; Мазыр: 850 год. Т. 1. Мазыр: гісторыя і сучаснасць. Гомель, 2005.

**Мазырскае паўстанне 1615**, антыфеадальнае выступленне гараджан *Мазыра*, выклікане самавольствам і ўціскам старасты, замкавай адміністрацыі і арандатараў. Падставай для абурэння стала рашэнне мазырскага старасты аб падпарадкаванні сваёй уладзе часткі мяшчан горада, абвясціўшы іх сваімі падданымі і пазбавіўшы магдэбургскага права. 3.10.1615 мяшчане ўзнялі паўстанне, якое ўзначалілі бурмістры Ждан Муша, Іван Крыцкі, мяшчане Дарошка-кравец, Іван Ваўчок, Астап Лаўрыновіч і інш. Паўстанне падтрымалі гар. нізы, што надало яму востры, наступальны характар. Мяшчане стварылі атрад у некалькі сотняў чалавек, узброіліся мушкетамі і інш. зброяй, напалі на замак, дзе знаходзіліся стараста, замкавая адміністрацыя і шляхта. У час сутыкненняў забіты некалькі чыноў адміністрацыі. Паўстанцы адмовіліся ад выплаты падаткаў і пабораў у скарб, арыштавалі мяшчан (прадстаўнікоў гар. патрыцыяту), якія не прынялі ўдзел у паўстанні, канфіскавалі іх маёмасць. Навакольнай шляхце пад страхам смяротнага пакарання быў забаронены ўезд у горад. Блакіраваўшы замак, паўстанцы захапілі ўладу ў горадзе, выбралі войта і ўсе паборы, якія належалі скарбу, перадалі ў гар. даход. Як завяршылася паўстанне, крыніцы не паведамляюць. З разбору ў вялікакняжацкім судзе можна заключыць, што яно цягнулася некалькі месяцаў. Суд вымушаны быў пайсці на ўступкі паўстанцам, у 1622 ён прыняў рашэнне вярнуць мяшчанам, якія знаходзіліся пад уладай замка, магдэбургскае права і перадаць іх пад юрысдыкцыю гар. самакіравання, у даход горада аддадзены шэраг пабораў з гандлю і рамяства.

*Літ.*: Копысский З.Ю. Из истории общественно-политической жизни городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII вв. // Тр. Ин-та истории АН БССР. Мн., 1958. Вып. 3.

***Зіновій Капыскі.***

**Мазырскае паўстанне 1649**, выступленне гараджан *Мазыра* ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Беларусі. Пачалося летам 1648, да гараджан далучыліся сяляне навакольных вёсак. Выступленне ўзначаліў мазырскі рамеснік Іван Сталяр, пад кіраўніцтвам якога было больш за 400 сялян і гараджан. Жыхары Мазыра склалі асобную харугву на чале з мясц. сёдлавым майстрам Седлярам. У жн. да гараджан далучыўся пасланы Б.Хмяльніцкім атрад Міхненкі. Каб закрыць казацкім загонам шлях на Беларусь, у пач. студз. 1649 з Берасця на Тураў і Мазыр рушыла 15-тысячнае войска польнага гетмана Я.*Радзівіла*. 18 студз. войска ВКЛ падышло да Турава, большая частка паўстанцаў адышла да Мазыра. Злучыўшыся з казакамі, жыхары Мазыра выбралі старэйшым начальнікам Седляра, другім — Міхненку. У горадзе ўмацоўваліся сцены, вуліцы перагароджваліся зрубамі, запоўненымі зямлёй, перад гар. сцяной рабіліся дадатковыя ўмацаванні. Радзівіл паслаў да гараджан ганца з лістом, у якім прапанаваў здаць горад без бою, за што абяцаў усім паўстанцам права на свабодны выхад. Гараджане не прынялі прапановы аб капітуляцыі і закавалі гетманскага пасланца ў ланцугі. 19 студз. войска Радзівіла падышло да Мазыра. Пяхота кінулася на штурм гар. сцяны, але вымушана была адступіць. Пасля артылерыйскага абстрэлу штурм аднавіўся з 3 бакоў. Драгуны пад прыкрыццём саней з дрывамі падышлі да варот, выбілі іх бярвёнамі і ўварваліся ў горад. Рукапашныя сутычкі працягваліся на вуліцах. К канцу дня горад і замак былі захоплены, рэшткі паўстанцаў адцеснены да Прыпяці і перабіты, горад разрабаваны. Кіраўнік паўстання Сядляр прарваўся праз акружэнне і выратаваўся, Міхненка ўзяты ў палон і пасаджаны на кол.

*Літ.*: Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965.

***Васіль Мялешка.***

**Мазырскае староства**, дзяржаўны маёнтак у *Мазырскім павеце* ВКЛ у 16—18 ст. У 1-й пал. 16 ст. складалася з Мазырскай і Бчыцкай (Пціцкай) валасцей, якія падзяляліся на больш дробныя адм.-тэр. адзінкі — нядзелі. У гэты час са складу староства вылучана каля 30 сёл (каля 630 сял. двароў), раздаленых у прыватную і ленную ўласнасць феадалам, пасля чаго ў Мазырскай вол., паводле інвентару 1552, засталіся 24 сялы з прыкладна 500 сял. дварамі і горад Мазыр з 270 дварамі, а ў Бчыцкай вол. — 12 сёл з 300 дварамі. З 2-й пал. 16 ст. раздача сёл у прыватную ўласнасць спынілася, але на працягу 17—18 ст. з М.с. вылучаны Азарыцкае, Багрымаўскае, Барыскавіцкае, Дамашоўскае, Загальскае, Нястанавіцкае, Сухавіцкае, Шыцкае, Якімовіцкае і інш. дзярж. староствы, частка якіх ператварылася ў ленныя маёнткі.




Старасты мазырскія: М.Гагін (1504), Я.Івашэнцавіч (1506—07), А.Няміра (1509), Ю.Радзівіл (1511—14), А.Гаштольд (1514—39), М.Нарбут (1542—47), М.Радзівіл Руды (1550—76), М.М.Радзівіл (1576—89), Ю.Радзівіл (1589—1607), Б.Стравінскі (1607—20), Я.Я.Тышкевіч (да 1631), А.Слушка (1636), К.Хадкевіч (1637), Г.К.Хадкевіч (1642—50), М.Францкевіч (1653), У.Халецкі (1655—68), К.К.Халецкі (1668—90), М.Халецкі (1690—95, 1698—1715), П.К.Катоўскі (1695), С.Э.Дэнгаф (каля 1720), Г.Л.Аскерка (1724—48), Е.А.Аскерка (1755—65), Л.Аскерка (1765—71), К.Аскерка (1773), Г.Яленскі (1773—85), Я.Яленскі (1787—94).

*Літ.*: Описание Мозырского замка 1552 г. // Архив Юго-Западной России. Киев, 1886. Ч. 7, т. 1.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Мазырскі замак.** Існаваў у г. *Мазыр* у 15—18 ст. Пабудаваны на мысе паміж 2 шырокімі ярамі, якія праразалі высокі карэнны бераг Прыпяці. Паўавальны ў плане замак меў памеры каля 120 × 60 м. Першы вядомы інвентар М.з. за 1552 сведчыць, што як абарончае збудаванне замак існаваў ужо ў пач. 1480-х г. Акрамя «замка» і «паркана» інвентар згадвае «острог около всего места и... ворот три», г.зн. уласна гар. ўмацаванні. У 1552 М.з. яшчэ не быў канчаткова адбудаваны пасля зруйнавання яго татарамі ў 1520—30-я г. Паводле інвентару за 1552, адбудова яго адносіцца да 1543. Уласна замак складаўся з 3 вежаў з гароднямі і некалькімі дамамі паміж імі, якія таксама выконвалі ролю абарончых умацаванняў. Перад замкам размяшчаўся паркан — перадавое ўмацаванне. На замкавым двары знаходзіліся царква св. Спаса, некалькі жылых і гасп. пабудоў, калодзеж. У 1576 М.з. перабудаваны. Паводле інвентару 1576, ён меў ужо 5 вежаў, быў значна пашыраны і заняў абедзве часткі Спаскай гары. 2 вежы, што размяшчаліся на зах. краі гары, называліся «Птичская» і «башня над Мозырским рынком». У 1609 М.з. згарэў, але ў 1613 адноўлены на сродкі спецыяльна ўведзенага ўрадам падатку. У ходзе ваен. дзеянняў 17 ст. замак некалькі разоў быў разбураны, не аднаўляўся і паступова прыйшоў у занядпад. У 18 ст. М.з. — замкава-палацавы комплекс, рэзідэнцыя мазырскага старасты. Складаўся (паводле інвентару 1772) з драўлянага палаца ў цэнтры і гасп. зоны. На замчышчы выяўлены рэшткі жылой пабудовы 16 ст. з кафлянай печчу, складзенай з гаршковай і каробчатай кафлі, упрыгожанай геаметрычным арнаментам.

*Літ.*: Архив Юго-Западной России. Киев, 1886. Ч. 7, т. 1. С. 611—615; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959, Т. 1. С. 176—178.

***Расціслаў Баравы.***

**Мазырскі кляштар бернардзінцаў.** Заснаваны ў г. Мазыр у 1645 Стафанам Лозкай. Мураваны касцёл Архангела Міхала пабудаваны ў 1760—78 на сродкі маршалка мазырскага Казіміра Аскеркі. Храм — познабарочная 3-нефавая базіліка з 2-вежавым фасадам-нартэксам і 5-граннай апсідай прэсбітэрыя. Трансепт, роўны па шырыні кроку базілікі, слаба выяўлены ў плане і на бакавых фасадах. Апорныя слупы маюць складанае сячэнне і адпаведную сістэму падпружных арак (слаістых і спараных). Гал. фасад быў вырашаны ў стылістыцы віленскага барока, ад яго ацалела ў першапачатковым выглядзе толькі ніжняя частка, падзеленая на 2 ярусы хвалістымі карнізамі на ўзроўні вышыні бакавых і цэнтр. нефаў. Дынамічна згрупаваныя звязкі пілястраў надаюць паверхні фасада злёгку выпукла-ўвагнутую структуру. Як бачна на карце бернардзінскіх кляштараў 18 ст., вежы раней мелі яшчэ 2 чацверыковыя ярусы вытанчаных прапорцый і завяршаліся 2-яруснымі банькамі. Кляштар зачынены ў 1832, касцёл аддадзены пад царкву і двойчы перабудоўваўся ў 1829 і 1865. Пры перабудове вежы гал. фасада замянілі на важкія чацверыковыя званіцы ў стылі позняга класіцызму, завершаныя псеўдарускімі шатровымі кампазіцыямі з цыбулепадобнымі галоўкамі. Падобная галоўка пастаўлена і над трохвугольным атыкавым франтонам з ляпным барэльефам на тымпане. Унутры святыні (цяпер Міхайлаўская царква) за 3-ярусным разьбяным іканастасам ацалеў прысценны мураваны познабарочны алтар з «Глорыяй» у завяршэнні. На арганныя хоры, размешчаныя над нартэксам і агароджаныя парапетам пластычнага абрысу, вядуць вітыя ўсходы ў тоўшчы фасаднай сцяны.

***Тамара Габрусь.***

**Мазырскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ. Утвораны ў 1565 у складзе Кіеўскага, з 1569 у Менскім ваяв. Цэнтр — г. *Мазыр*. Асн. частку павета складалі дзяржаўныя Мазырская, Бчыцкая (Пціцкая) і Уборцкая воласці (з пач. 15 ст. належала Віленскаму біскупству). У М.п. увайшла таксама тэрыторыя на паўн. беразе р. Прыпяць ад р. Пціч да р. Случ з маёнткамі Ленін, Жыткавічы і інш., якія, мабыць, раней вылучыліся з Тураўскага княства. Найб. значныя мястэчкі Капаткевічы, Каралін, Лельчыцы, Ленін, Нароўля, Петрыкаў, Скрыгалаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***



Аўтар карты М.Ф.Спірыдонаў

**Майман** (сапр. Хейман) Саламон (Шлома; каля 1753, в. Сукавыбарг паблізу мяст. Мір Навагародскага пав.— 22.11.1800), філосаф-асветнік, адзін з першых каментатараў і крытыкаў І.Канта. Скончыў яўр. школу ў Міры, вучыўся ў талмудычнай школе ў мяст. Івянец. У гонар знакамітага яўрэйскага філосафа 12 ст. Майманіда прыняў прозвішча М. Абвінавачаны ў ерасі *хасідамі*, да якіх быў раней блізкі. У канцы 1770-х г. пераехаў у Германію, каб вывучаць свецкую філасофію і прыродазнаўчыя навукі. Жыў у Кёнігсбергу, Штэціне, Берліне, Познані, Гамбургу. Першая кніга на нямецкай мове «Спроба трансцэндэнтальнай філасофіі» (1790), прысвечаная філасофіі Канта, была высока ацэнена самім Кантам. У 1790-я г. М. выдаў працы на нямецкай мове «Спрэчкі аб філасофіі», «Аб прагрэсе філасофіі», «Катэгорыі Арыстоцеля» і інш., на іўрыце — «Пагорак Настаўніка», «Тайны мудрасці», «Жаданне Саламона». Творы М. чыталі і высока ацэньвалі І.В.Гётэ, І.Х.Ф.Шылер, І.Г.Фіхтэ і інш. Характэрныя рысы яго філасофіі — скептыцызм і рацыяналізм. М. сцвярджаў, што існуе толькі адзіны свет — свет свядомасці, што пазнаць можна толькі аб'екты, створаныя самім пазнаннем. Адвяргаў існаванне кантаўскай «рэчы ў сабе». У сваёй «Гісторыі жыцця...» (1793) усебакова адлюстраваў жыццё і побыт насельніцтва Беларусі 2-й пал. 18 ст., сац.-эканам. і духоўныя праблемы.

*Тв.*: Рус. пер. — История жизни Шломо Маймона, написанная им самим // Еврейская библиотека. СПб., 1871—72. Т. 1—2.

*Літ.*: Фишер К. История новой философии. Т. 6. СПб., 1909; Яковенко Б. Философская концепция Соломона Маймона // Вопр. философии и психологии. 1912. Кн. 4—5; Купчин Н.С. Философские взгляды Маймона // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962.

***Эмануіл Іофе.***

**майстар** цэхавы, паўнапраўны член рамеснага цэха ў ВКЛ. Каб стаць М. («братам»), прэтэндэнт (рамеснік, які навучаўся спецыяльнасці як *падмайстар*) павінен быць жанатым, падаць у цэх пасведчанне аб законным нараджэнні, дакумент, які пацвярджаў завяршэнне курса навучання рамяству ў М., здаць грашовы ўзнос у касу цэха і зрабіць пробны выраб («штуку»); пасля — наладзіць вячэру для членаў цэха. Рамеснікі, якія перасяляліся з інш. гарадоў, для ўступлення ў цэх павінны былі набыць у горадзе дом і прыняць гар. грамадзянства. Сыны мясцовага М. мелі льготы пры пераходзе з падмайстраў у М. Толькі М. са свайго асяроддзя маглі выбіраць галаву цэха — *цэхмістра*, падцэхмістра, удзельнічаць у пасяджэннях цэха, устанаўліваць цэхавыя падаткі, наймаць падмайстраў. М. павінен быў выпускаць прадукцыю ўстаноўленага ўзору і якасці. Яму забаранялася ганьбіць майстэрства іншых М. і пераманьваць заказчыкаў; за па-

добнае парушэнне М. мог быць аштрафаваны або пазбаўлены права займацца сваім рамяством. Удава М. магла наследаваць справу мужа і стаць паўнапраўным членам цэха — майстрыхай.

*Літ.*: Игнатенко А.П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв. Мн., 1963; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII. Мн., 1966; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. городов). Мн., 1975.

***Валерый Пазднякоў.***

**Майхровіч** Сцяпан Казіміравіч [8(21).6.1908, в. Старэва Слуцкага пав. Мінскай губ.—1.7.1981], бел. крытык і літаратуразнавец. Канд. філал. навук (1959). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1941). У 1920—30-я г. на камсамольскай і выдавецкай рабоце. У Вял. Айч. вайну гал. рэдактар Цэнтр. бел. радыёвяшчання ў Маскве (1941—43), потым рэдактар падпольнай газ. «Белостокская правда». У 1944—48 дырэктар Дзярж. выдавецтва БССР, у 1951—54 гал. рэдактар Вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР. У 1959—70 старшы навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследаваў гісторыю стараж. і новай бел. л-ры.

*Тв.*: Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957 (2 выд. 1959); Георгій Скарына. Мн., 1966; Слова аб палку Ігаравым. Мн., 1968; Прыказкі і прымаўкі: Гіст. нарыс. Мн., 1976; Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст. Мн., 1980.

**Макарый** [у свеце Булгакаў Міхаіл Пятровіч; 19.9(1.10).1816, с. Суркова Новааскольскага пав. Курскай губ.—9(21).6.1882], праваслаўны царкоўны дзеяч, гісторык, багаслоў. Акадэмік Пецярбургскай АН (1854). Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1841). У 1842—57 у Пецярбургскай духоўнай акадэміі, праф., рэктар (з 1850). Вікарны епіскап вінніцкі (1855), епіскап тамбоўскі і шацкі (1857), харкаўскі і ахтырскі (1859), архіепіскап літоўскі і віленскі (1868), мітрапаліт маскоўскі і каломенскі (1879). Аўтар прац па багаслоўі і царк. гісторыі. Гал. твор — 12-томная «Гісторыя Рускай Царквы» («История Русской Церкви», Масква, 1866—83; перавыдадзена ў 1994—96 у 7 кнігах), дзе разгледжаны падзеі ад 10 ст. да часоў маскоўскага патрыярха Нікана (сярэдзіна 17 ст.). 9-ы том («Гісторыя Заходнярускай, або Літоўскай, мітраполіі», 1879) прысвечаны гісторыі правасл. царквы ВКЛ 15—16 ст.; у ім змешчана шмат дакументаў, што робіць працу асабліва каштоўнай. Гісторыі і культуры ВКЛ прысвечана таксама праца «Аб Грыгорыі Цамблаку, мітрапаліце кіеўскім, як пісьменніку».

*Літ.*: Титов Ф. Макарий (Булгаков), митрополит Московский и Коломенский. Т. 1—2. Киев, 1895—1903.

***Юрый Бажэнаў.***

**Макарый I** (мянушка Чорт; сярэдзіна 15 ст.—1.5.1497), дзеяч праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Звестак пра пачатак яго жыцця не захавалася. Мітрапаліт Сімяон (1481—88) прызначыў яго архімандрытам Свята-Троіцкага манастыра ў Вільні. З 1495 нарачоны мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі. Карыстаўся даверам Масквы. Калі рыхтаваўся шлюб дачкі вял. князя маскоўскага Івана III Алены Іванаўны з вял. князем літоўскім Аляксандрам, Іван III прасіў, каб таінства вянчання здзейсніў М. I, але Аляксандр гэтага не дазволіў. Пасля М. I абраны на мітрапаліцкі пасад саборам епіскапаў ВКЛ. У 1496 благаславёны канстанцінопальскім патрыярхам Ніфантам. Дазволіў віленскім мяшчанам штогадовую рэвізію маёмасці ў цэрквах, але адхіліў іх прэтэнзіі на ўдзел у пастаўленні святароў і ігуменаў. Забіты ў с. Скрыгалава каля Мазыра ў час паездкі ў Кіеў пры набегу крымскіх татараў. Пахаваны ў Сафійскім саборы ў Кіеве. Кананізаваны.

*Літ.*: Титов Ф. Святый священно-мученик Макарий, митрополит Киевский и всея России (1 мая 1497—1 мая 1897) // Тр. Киевской духовной академии. 1897. Кн. 5; Корольков И.Н. Киевский митрополит, священномученик Макарий и его значение в истории югозападной церкви // Там жа. Кн. 6; Кісялёў У. Я аддаю сябе волі Божай... // Праваслаўе. 2001. № 10.

***Валерый Пазднякоў.***

**Макарый II** (?—1556), дзеяч праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Епіскап пінскі, з 1528 луцкі і астрожскі, з 1534 мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі. Дзякуючы яго намаганням правасл. царква ў ВКЛ пры Жыгімонце II Аўгусце захоўвала свае правы і прывілеі, будаваліся новыя цэрквы і манастыры ў Віцебску, Навагародку, Пінску. Аднак маральны стан духавенства мітраполіі значна пагоршыўся, пашырылася атрыманне царк. пасад за хабар, павялічыўся ўплыў свецкіх асоб на царк. справы, чаму М. II фактычна спрыяў.

**Макарый Канеўскі** (1605?—78), прападобнапакутнік, ігумен пінскі. Быў настаяцелем Купяціцкага Увядзенскага, Камянецкага Уваскрасенскага, Оўруцкага Успенскага і Канеўскага (на Украіне) манастыроў. Адмовіўся выдаць манастырскія скарбы татарам у час іх набегу на Канеў, быў забіты. Мошчы захоўваюцца ў Багародзіцкай царкве ў Каневе. Памяць 13(26) мая — перанясенне мошчаў і 7(20) вер. — спачын.

***Тацццяна Матрунчык.***

**Макоўскі** Тамаш (4-я чвэрць 16 ст., в. Макова Бельскага пав.?—1-я чвэрць 17 ст.), рысавальшчык, гравёр. Быў слугой па розных даручэннях магната-мецэната М.К.*Радзівіла* Сіроткі ў Нясвіжы, куды трапіў, відаць, па пратэкцыі свайго земляка картографа М.Струбіча. Адбылося гэта, магчыма, тады, калі была пачата падрыхтоўка новай арыгінальнай карты ВКЛ. М. быў адным з асн. супрацоўнікаў творчага калектыву, ён аформіў падрыхтоўчыя і канчатковы чыставы малюнкі карты. Карта была закончана ў 1599 і ўпершыню надрукавана каля 1603 (у Нясвіжы, Гданьску або Аўгсбургу). Відаць, гравіраваў карту М. Другое асобнае выданне выйшла ў 1613 у Амстэрдаме; копія змешчана ў атласе амстэрдамскага выдаўца карт В.Блаў, што неаднаразова выходзіў у свет пачынаючы з 1631. У 1600—01 М. жыў, відаць, у г. Брунсберг (Бранева) у Каралеўскай Прусіі, дзе ўдасканальваў сваё гравёрнае майстэрства ў Т.Трэтара. У далейшым М. стварыў шмат гравюр на розныя тэмы. У іх адчуваецца істотны ўплыў замежных, асабліва нідэрландскіх, мастакоў. Сярод дайшоўшых да нас твораў пераважаюць гравюры — ілюстрацыі да кніг, у прыватнасці да кнігі Радзівіла «Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю» (Брунсберг, 1601), да «Гіпікі» К.М.*Дарагастайскага* (2 выд. Познань, 1620), да панегірыка Радзівілу братоў Скарульскіх (Нясвіж, 1604). У 1600—09 М. стварыў шэраг каштоўных арыгінальных гравюр — панарамных відаў некаторых гарадоў ВКЛ: Біржаў, Віль-

ні, Гародні, Клецка, Коўна, Нясвіжа, Трок. Дзякуючы нясвіжскай гравюры М. 1611 захаваўся вельмі каштоўны план Масквы, што ў 1606—08 намаляваў Сымон Ендрашэвіч Смятанскі. У Нясвіжы ўстаноўлены бюст М. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 143, 290, 332.

*Літ.*: Jakubowski J. Z dziejów Księcia Sierotki: Geograf polski Tomasz Makowski / / Odgłosy: Księga zbiorowa wydana staraniem i nakładem Stowarzyszenia Dom Polski w Moskwie. Moskwa, 1916; Яго ж. W sprawie mapy Litwy Tomasza Makowskiego (1613) // Przegląd geograficzny. 1918—19. R. 1; Яго ж. Tomasz Makowski, sztycharz i kartograf nieświeski: (przyczynek do dziejów sztuki i nauki na Litwie). Warszawa, 1923; Buczek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII w.: Zarys analityczno-syntetyczny. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1963; Alexandrowicz S. Nieznane zródła do działalności Tomasza Makowskiego, sztycharza nieświeskiego // Przegląd historyczny. 1965. № 3; Яго ж. Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego Tomasza Makowskiego z 1613 r. tzw. «radziwiłłowska» jako źródło do dziejów Litwy i Białorisi // Studia źródłoznawcze. Warszawa; Poznań, 1965. T. 10; Яго ж. Stanowisko Tomasza Makowskiego na dworze nieświeskim: (przyczynek do biografii artysty) // Biuletyn historii sztuki. 1967. № 4; Яго ж. Pierwsze zaginione wydanie radziwiłłowskiej mapy Wielkiego Księstwa Litewskiego // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1968. № 3; Яго ж. Несвижский план Москвы 1611 г. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Яго ж. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Максімейка** (Максимейко) Мікалай Аляксеевіч [5(17).6.1870, с. Валашніўцы Роменскага пав. Палтаўскай губ.—14.4.1941], украінскі гісторык права. Чл.-кар. АН УССР (1925), д-р гісторыі права (1914). Скончыў Кіеўскі ун-т (1892). Прыват-дацэнт, дацэнт, праф. гісторыі рус. права Харкаўскага ун-та (1897—1920) і інш. ВНУ Харкава (1920—26), адначасова працаваў у камісіі па вывучэнні гісторыі зах.-рус. і ўкр. права АН УССР, быў членам гэтай камісіі (1934—40). Вывучаў гісторыю права Стараж. Русі і ВКЛ, у т.л. праблемы ўплыву норм польскага права на заканадаўства Беларусі, Літвы і Украіны 14—16 ст. У працы «Крыніцы крымінальных законаў Літоўскага Статута» («Источники уголовных законов Литовского Статута», Киев, 1894) прызнаваў кіруючую ролю «рускага права» ў



Т.**Макоўскі**. Партрэт Жыгімонта III. Медзярыт з кнігі «Статут Вялікага княства Літоўскага». Вільня. 1619.

фарміраванні прававых норм Статутаў ВКЛ 16 ст., а ў «саслоўнай афарбоўцы» Статутаў адводзіў гал. месца не ўплыву польскага права, а саслоўнаму характару ВКЛ.

*Тв.*: Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902; Русская Правда и литовско-русское право. Киев, 1904; Опыт критического исследования Русской Правды. Вып. 1. Харьков, 1914; Система Руської Правди в її поширеній редакції. Київ, 1926; Інтерполяції в тексті поширеної Руської Правди. Київ, 1929.

*Літ.*: Скакун О.Ф. М.О.Максимейко як історик права // Проблеми правознавства. 1971. Вип. 21.

***Дзмітрый Караў.***

**Маладзечанскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе р. Уша як цэнтр абароны сярэдневяковага *Маладзечна*. Упершыню згадваецца ў 1388. Пры яго будаўніцтве ўдала выкарыстаны нізкі балоцісты рэльеф і натуральныя ўмацаванні: падведзена грэбля, на балоце вымашчаны ўчастак 120 х 80 м, насыпана са жвіру і пяску пляцоўка вышынёй каля 4 м. Па яе краі зроблены валы вышынёй да 3,5 м і шырынёй 11 м. Напачатку тут стаялі драўляныя сцены-гародні і вежы, у т.л. ўязная брама. У 17 ст. на вуглах замка пабудаваны бастыёны галандскага тыпу, што адпавядала зменам у тактыцы абароны і аблогі. Для прадухілення апаўзання зямлі каля падножжа бастыёнаў мелася агароджа слупавой канструкцыі. Знутры вала, у месцах яго прылягання да брамы, насыпы арміраваны мураванымі сценкамі. У 17—18 ст. у замку знаходзілася рэзідэнцыя князёў Агінскіх. На яго тэрыторыі ў 16—18 ст. быў мураваны храм (11 х 24 м), размаляваны фрэскамі. Відаць, апошні раз умацаванні М.з. выкарыстаны пры абароне ад шведаў у 1708. Замак разбураны ў канцы 18 ст. Яго археалагічныя даследаванні праводзіў М.А.Ткачоў (1976, 1980).

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.

***Міхась Ткачоў.***

**Маладзечна** (цяпер горад, цэнтр Маладзечанскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Менскім пав., на р. Уша. Упершыню ўпамінаецца 16.12.1388 у прысяжным лісце кн. *Дзмітрыя Альгердавіча* вял. князю літоўскаму Ягайлу. З 1413 у Віленскім ваяв. У 15 ст. пры зліцці р. Маладчанкі з Ушой пабудаваны *Маладзечанскі замак*. Як прыватнаўласніцкі двор і горад належаў Заслаўскім, Мсціслаўскім, Сангушкам, Рагозам, Радзівілам, Агінскім, Тышкевічам. У 1567 у М. адбываліся папярэднія перагаворы прадстаўнікоў ВКЛ і Польшчы аб умовах *Люблінскай уніі 1569*. Да 17 ст. горад меў каля 3 тыс. жыхароў і ўваходзіў у лік 20 буйнейшых гарадоў Беларусі. У *Паўночную вайну 1700—21* захоплены шведскімі войскамі (1708). У 1757 атрымаў прывілей на гандаль. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі

*Літ.*: Ярушевич А. Молодечно и его учебные заведения: К пятидесятилетию Молодечненской учительской семинарии, 1864—1914. Вильна, 1914; Каханоўскі Г.А. Маладзечна: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1988.

***Генадзь Каханоўскі.***

**Маларыта** (цяпер горад, цэнтр Маларыцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Берасцейскім пав., на р. Маларыта. Упершыню ўпамінаецца ў 1546 у дакументах пра размежаванне ВКЛ і Польшчы. Пад 1564 і 1566 упамінаецца як дзяржаўная в. Малая Рыта ў Палескай вол. *Берасцейскай эканоміі*. У 1566 — 36 гаспадарак, у 1668 — 29 гаспадарак, 38 валок зямлі, уніяцкая царква. У 1768—90 ва ўрочышчы Руд-



ня дзейнічала металургічная мануфактура, выпускала лемяшы, калёсныя восі, малаткі, кувалды, кухонныя прыборы; мела вадзяныя рухавікі, домну для атрымання чыгуну з мясц. руды, 2 домны для перапрацоўкі чыгуну ў сталь, 2 плавільныя печы для для адліўкі форм з гатовага металу. На тэрыторыі мануфактуры дзейнічаў медны завод па выпуску катлоў для бровараў. У 1780 тут працавала 180 рабочых, выпушчана 18 тыс. пудоў жалеза. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Малая Літва**, Пруская Літва, памежная з ВКЛ гістарычная вобласць, якую ўтварылі заваяваныя ў 13 ст. Тэўтонскім ордэнам заходнебалцкія землі Надровія і Скаловія (міжрэчча Прэголі і нізоўя Нёмана). Апошнія да крыжацкай агрэсіі знаходзіліся пад уладай *Міндоўга*, у 1283—1525 пад уладай Тэўтонскага ордэна. У 1525—1701 тэр. М.Л. ўваходзіла ў склад Прускага герцагства, з 1701 — Прускага каралеўства. Упершыню назва М.Л. (ням. Klein Litauen) згадваецца нямецкімі храністамі 16 ст. Сімонам Грунаў і Лукой Давідам. Апошні супрацьпастаўляў М.Л. Вял. Літве — ВКЛ. Да гэтага часу тэр. Надровіі і Скаловіі называлася проста Літвой (лічыцца, што гэтая Літва згадваецца ў акце папскага легата Вільгельма з Мадэны 1243). З 17 ст. назва М.Л., побач з назвай Пруская Літва (ням. Preussisch-Litauen), пачала ўжывацца ў картаграфіі. Асн. насельніцтвам гэтых зямель з'яўляліся этнічныя супольнасці надроваў і скаловаў, якіх адны даследчыкі (В.Вілейшыс, П.Пакарклiс, Ю.Жугжда, Ю.Юргініс і інш.) лічылі зах. літоўцамі, іншыя (К.Буга, Я.Эндзелін, В.Мажуліс) — прускімі ці прамежкавымі паміж прусамі і літоўцамі этнічнымі супольнасцямі.

У выніку бесперапынных войнаў з ВКЛ нямецкая каланізацыя Надровіі і Скаловіі адбывалася марудна. Асн. яе працэсы праходзілі на захад ад рэк Прэголя і Дэйма ў прускіх землях Натангія, Барта, Самбія, Вармія і інш. Пасля Грунвальдскай бітвы 1410 крыжацкая агрэсія на У была спынена. Паводле Мельнскага міру 1422 дзяржава крыжакоў страціла непасрэдную тэрытарыяльную сувязь з этнічнымі нямецкімі землямі, і паток каланістаў значна скараціўся. Узмацніліся гандлёва-эканам. сувязі з ВКЛ. Памежнае становішча М.Л., а таксама актыўныя міграцыйныя працэсы — перасяленне сюды часткі літ. ваеннапалонных і бежанцаў з ВКЛ спрыялі паступовай літуанізацыі зах.-балцкага насельніцтва краю (у першую чаргу надроваў і скаловаў, а таксама часткі прусаў, куршаў, яцвягаў). Гэта прывяло да складання ў 16 ст. асобнай этнаграфічнай групы літоўцаў — літоўнікаў (літ. lietuvininkai), ці малалітоўцаў.

У 16—18 ст. ядро М.Л. складалі 4 паветы (валасці) з цэнтрамі ў Клайпедзе (Мемель), Тыльжэ (Цільзіт), Рагайне (Рагніт) і Ісруцісе (Інстэрбург), якія былі кампактна заселены літ. насельніцтвам (літоўнікамі) і ўтварылі т.зв. Літ. правінцыю (ням. Provinz Litauen). Літ. насельніцтва пражывала таксама ў наваколлі Караляўца (Кёнігсберг), Лабгувы (Лябяў), Шакяй (Шакен), Таплаўкіса (Таплякен) і інш. У 1736 Літ. правінцыя разам з Мазурамі пераўтворана ў асобную адм.-тэр. адзінку Прускага каралеўства — Літ. дэпартамент (ням. Litauisches Departement) з цэнтрам у Гумбіне (Гумбінен).

З самага пачатку нямецкага панавання ў адносінах да балцкага насельніцтва праводзілася палітыка анямечвання і сац.-эканам. прыгнёту. У 1310 паводле ўказа магістра Тэўтонскага ордэна Фойхтвагена нямецкім феадалам, службоўцам, духавенству, гандлярам і рамеснікам забаранялася звяртацца да прусаў на іх роднай мове. Балты ў параўнанні з нямецкімі каланістамі знаходзіліся ў значна горшым эканам. і юрыд. становішчы. Абсалютная большасць балцкага насельніцтва М.Л. займалася земляробствам і з'яўлялася дзяржаўнаўласніцкімі прыгоннымі сялянамі. Ім забаранялася вучыцца рамёствам, жыць у гарадах, мець млыны, трымаць корчмы, яны былі абмежаваны ў праве займацца паляваннем, рыбалоўствам і інш. У сваю чаргу, прывілеяванае становішча мелі нямецкія сяляне-каланісты, якія валодалі значна большымі зямельнымі надзеламі, мелі магчымасць сяліцца ў гарадах і інш. Амаль усе дзярж. пасады займалі немцы, пераважна немцамі былі магнаты і гараджане. Да 18 ст. колькасць нямецкіх феадалаў і сялян у М.Л. была нязначнай. Нямецкая каланізацыя ўзмацнілася тут пасля спусташальнай эпідэміі чумы і голаду, што ахапілі ў 1709—11 усю Прусію і мелі асабліва цяжкія наступствы для эканамічна адсталай М.Л. Пад выглядам эканам. адраджэння ў 1710—36 сюды былі пераселены больш за 23 тыс. немцаў-каланістаў, пераважна сялян. Гал. мэтай каланізацыі было анямечванне М.Л., у першую чаргу памежных з ВКЛ раёнаў. З самага пачатку заваявання крыжакамі прускіх земляў сярод мясц. жыхароў гвалтоўна насаджалася каталіцтва. Аднак большасць прусаў і літоўцаў яшчэ доўгі час працягвалі трымацца язычніцтва. У 1525 М.Л. стала часткай свецкага Прускага герцагства, дзе афіцыйнай рэлігіяй было абвешчана лютэранства.

Нягледзячы на пануючае становішча нямецкай культуры, у М.Л. (як і ў цэлым у Прусіі) склаліся спрыяльныя ўмовы для развіцця літ. культуры. Пратэстанцкая рэлігія прадугледжвала набажэнствы на роднай мове насельніцтва. З гэтай мэтай вялася падрыхтоўка святароў, якія авалодвалі літ. і прускай мовамі. Важным культурным цэнтрам краю стаў заснаваны ў 1544 *Каралявецкі ўніверсітэт*. Да 18 ст. ў М.Л. была створана значная колькасць пачатковых школ з літ. мовай навучання (нямецкая мова стала абавязковай толькі з 1739). У 1737 было ўведзена абавязковае навучанне дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў. У цэлым развіццё літ. культуры ў М.Л. ішло больш шпаркімі тэмпамі, чым у ВКЛ. Так, у 16 ст. ў Прусіі былі выдадзены 22 кнігі на літ. мове (у ВКЛ — 8), у 17 ст. — 22 (у ВКЛ — 32), у 18 ст. — 243 (у ВКЛ — 167). Пераважная большасць гэтых выданняў мела рэлігійны характар. З М.Л. была цесна звязана дзейнасць літ. першадрукара М.*Мажвідаса*, які быў асабіста запрошаны з ВКЛ герцагам *Альбрэхтам* для навучання ў Каралявецкім ун-це. У 1547 у Караляўцы ён выдаў першую друкаваную кнігу на літ. мове — пратэстанцкі катэхізіс, а ў 1549—63 быў пастарам у Рагайне. У М.Л. працавалі дзеячы Рэфармацыі — выхадцы з ВКЛ — С.*Рапалёніс*, А.*Кульвец*, Ё.Заблоцкіс, А.Радунёніс і інш. Тут у 1579—90 Ё.*Брэткунас* зрабіў першы пераклад на літ. мову Бібліі. У сярэдзіне 17 ст. ў М.Л. з'явіліся першыя друкаваныя граматыкі літ. мовы Д.*Клейна* (1653, 1654). У першую чаргу яны былі прызначаны для святароў, якія павінны бы-

лі весці службу ў літ. прыходах. Над стварэннем граматык літ. мовы працавалі таксама К.Сапунас, Т.Шульц, П.Руйгіс. Вывучэннем нар. культуры і побыту літоўцаў М.Л. займаліся ў 17—18 ст. Т.Лепнер і М.Прэторыус. У канцы 18 ст. пачынальнікам літ. класічнай л-ры стаў К.*Данелайціс*, які напісаў паэму «Поры года». У паэме знайшлі адлюстраванне складанае жыццё і быт літ. селяніна М.Л. — бураса. Своеасаблівыя паліт., сац.-эканам., канфесіянальныя і этнакультурныя ўмовы прадвызначылі фарміраванне адрозных ад інш. груп літоўцаў форм нар. культуры. Самабытнымі рысамі вылучаюцца рыбацкія жылыя пабудовы на Куршскай касе і ў вусці Нёмана, драўляныя надмагільныя помнікі — крыкштай, традыцыйнае нар. адзенне (клайпедскі строй) і інш. Іл. гл. ў т. 1, с. 61, 127.

*Літ.*: Lietuvininkai. Vilnius, 1970; Matulevičius A. Mažoji Lietuva XVIII amžiuje: Lietuvių tautinė padėtis. Vilnius, 1989; Кушнер (Кнышев) П.И. Этническое прошлое юго-восточной Прибалтики. Вильнюс, 1991; Lietuvininkų kraštas. Kaunas, 1995; От Мажвидаса до Видунаса. Вильнюс, 1999; Mažocios Lietuvos enciklopedija. T. 1—2. Vilnius, 2000—03.

***Юрый Унуковіч.***

**Малдаўскае княства**, феадальная дзяржава ў басейне р. Сірэт, Прут, Днестр у 1359—1861. Узнікла як васал Венгерскага каралеўства, потым па чарзе было васалам то Польшчы, то Венгрыі, з 1513 — Асманскай імперыі. У 1859—61 разам з Валахіяй утварыла Румынскую дзяржаву. У стараж. бел. крыніцах М.к. вядома як Валошчына, Валошскае ваяводства. Ужо пры «первых господарех воевод волоских и князей литовских... они мели межи собою братство и прыятельство и мир». У выніку разгрому татараў у *бітве каля Сініх Вод 1363* да М.к. далучаны вял. тэрыторыі да нізоўя Дуная і Чорнага мора. Пасля спынення 1-й княжацкай дынастыі малдаўскія баяры запрасілі да сябе на прастол літ. кн. Юрыя Карыятавіча (1374), які ў тым жа годзе быў атручаны. Пасля падпісаня Крэўскай уніі 1385 Ягайла пры падтрымцы Вітаўта ўстанавіў над М.к. сюзерэнітэт Польшчы. Пазней М.к. падтрымала барацьбу Вітаўта супраць уніі (у 1391 створаны саюз Вітаўта, малдаўскага ваяводы Рамана і маскоўскага вял. кн. Васіля І). М.к. выступіла саюзнікам Вітаўта ў *бітве на Ворскле 1399*. З канца 14 ст. ва ўнутрымалдаўскія справы актыўна ўмешваўся Свідрыгайла, які некалькі разоў знаходзіў там прытулак у час уцёкаў з ВКЛ. Не выключана, што на мяжы 14—15 ст. Малдова пэўны час была васалам ВКЛ. У грамаце малдаўскага гаспадара Аляксандра Добрага 30.6.1401 згаданы «господин наш, великий князь Витовт». Пазней паміж абедзвюма дзяржавамі ўстанавіліся раўнапраўныя адносіны. Вядомы двухбаковыя дагаворы 1415, 1431 (з удзелам Тэўтонскага ордэна), 1435, 1437, 1442, 1447, 1496, 1499, 1518, 1551, 1554. У 1420—80-я г. ВКЛ неаднаразова аказвала падтрымку М.к. ў барацьбе супраць агрэсіі Асманскай імперыі. Паводле дагавораў ВКЛ нязменна захоўвала з Малдовай мір (за выключэннем *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94*, у якой М.к. выступіла саюзнікам Масквы), нягледзячы на тое, што Польшча, звязаная уніяй з ВКЛ, ваявала супраць Малдовы (напр., у 1497, 1503—05, 1509, 1531, 1535—38, не лічачы шматлікіх авантур, прадпрынятых на сваю рызыку асобнымі магнатамі). Часта адносіны з М.к. дэманстравалі незалежнасць ВКЛ ад Польшчы. Калі ў 1509, рыхтуючыся да вайны з Малдовай, Жыгімонт І Стары прапанаваў удзел у ёй ВКЛ, то атрымаў адмову Рады ВКЛ. На сойме 1532 у Вільні прадстаўнікі Жыгімонта Старога беспаспяхова прасілі дазволу выкарыстаць супраць Малдовы войскі ВКЛ. У 1551 вальны сойм у Вільні згадзіўся «прысегу учинити на вечны мир и покой воеводе волошскому з панством его милости, великим князством Литовским». У той жа час палякі падпісваць мірны дагавор адмовіліся. Аналагічны дагавор (апошні з гэтай серыі) быў заключаны ВКЛ з гаспадаром Аляксандрам IV Лапушняну ў 1554. Дыпламатычныя адносіны з Малдовай падтрымліваліся ВКЛ і пасля Люблінскай уніі 1569 (напр., К.Радзівілам на мяжы 16—17 ст., Я.Радзівілам у сярэдзіне 1640-х г.) і, як правіла, выражалі імкненне «сепаратыстаў» ВКЛ да большай незалежнасці ад Польшчы.

Блізкасць гіст. лёсаў ВКЛ і М.к. спрыялі іх культ. збліжэнню. Літаратурная слав. мова М.к. (да канца 17 ст. афіцыйная) адчувала моцны ўплыў старабел. мовы. Мітрапаліт *Грыгорый І Цамблак* у пач. 15 ст. зрабіў спробу злучыць правасл. цэрквы ВКЛ і М.к. Бел. друкар С.*Рагаля* быў заснавальнікам малдаўскага кнігадрукавання. Дынастычнымі шлюбамі з малдаўскімі гаспадарамі былі звязаны Алелькавічы, Гальшанскія, Радзівілы. Паліт. эмігранты з М.к. знаходзілі прытулак у ВКЛ. У частцы малдаўскіх баяр да канца 17 ст. была папулярная ідэя дабівацца для М.к. ў выпадку вызвалення ад туркаў статуса, аналагічнага ВКЛ: уваход у склад Рэчы Паспалітай на ўмовах захавання асобных адміністрацыі, дзярж. скарбу, войска і судовай сістэмы.

*Літ.*: Книга посольская Метрики Великого княжества Литовского. Т. 1. М., 1843; Уляницкий В.А. Материалы для истории взаимных отношений России, Польши, Молдавии, Валахии и Турции в XIV—XVI вв. М., 1887; Zródła dziejowe. T. 10. Warszawa, 1887; Исторические связи народов СССР и Румынии. Т. 1, М., 1961; Параска П.Ф. Молдавско-литовские отношения во второй половине XIV—XV в. // Проблемы источниковедения истории Молдавии периода феодализма и капитализма. Кишинев, 1983; Очерки внешнеполитической истории Молдавского княжества (последняя треть XIV—начало XIX в.). Кишинев, 1987; Bely A. The Battle of the Kozmynskyi Forest: Diplomatic Background // The Ukrainian Review. 1995. Vol. 42. № 1.

***Алесь Белы.***

**Малеч** (цяпер вёска ў Бярозаўскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Берасцейскім пав. У 1563 дзярж. сяло ў Блудзенскай вол. *Кобрынскай эканоміі*, 39 валок зямлі, царква. 6.6.1645 М. атрымаў магдэбургскае права, меў герб з выявай св. Пятра. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Маліна** Ян Казімір (1620—24.11.1672), дзеяч лютэранскай царквы Прускага герцагства і ВКЛ, гімнограф. Паходзіў з Сілезіі, тэалагічную адукацыю атрымаў у Каралякўцы. У 1647 дыякан у Рызебургу, у 1650—53 пастар у Хрыстбургу, з 1653 пастар у Вільні, суперінтэндант лютэранскай царквы ВКЛ. З-за наступлення рас. войска ў 1655 М. выехаў у Каралявец, дзе заняўся духоўнай апекай лютэран-уцекачоў з ВКЛ. Тут надрукаваў казанне «Разгром Літвы» («Excidium Lithuaniae», 1655) і вершаваны «Лямант жалосны» («Lament Żałosny», 1656). З 1658 пастар, акруговы архіпрэсвітэр і правінцыяльны інспектар школ у Тыльзе (Тыль-



зіце). У 1667 губернатар Прусіі Б.*Радзівіл* даў М. права служыць суперінтэндантам лютэранскай царквы ВКЛ, застаючыся ў Тыльзе, дзе М. і памёр (паводле інш. звестак, у Вільні). Быў аўтарам некалькіх казанняў, выдадзеных у Вільні, Любчы і Караляўцы. Кадыфікаваў віленскую лютэранскую абраднасць набажэнства («Porządek obrzędów zwyczaynych kościoła Augustańskiey Konfessyi w Wilnie», 1640?; «Agenda», 1648). У якасці суперінтэнданта склаў канцыянал для лютэранскай царквы ВКЛ («Kancyonał to iest Pieśni chrześciańskie ku chwale Boga», Каралявец, 1671), які грунтаваўся на канцыянале віленскага пастара А.*Шонфлісіуша*. Канцыянал М. перавыдаваўся ў Караляўцы (1673, 1678) і Гданьску (1677, 1693). М. быў аўтарам некалькіх са змешчаных там гімнаў, якія ўключаліся ў інш. лютэранскія спеўнікі канца 17—20 ст.

*Мікола Пачкаеў.*

**Маліноўскі** Іаанікій Аляксеевіч (4.11.1868—12.1.1932), расійскі і ўкраінскі гісторык права. Акадэмік Усеўкраінскай АН (1925), д-р дзярж. права (1913), праф. ардынарны (1914). Прадстаўнік кіеўскай юрыд. школы. Скончыў Кіеўскі ун-т, дзе ў 1894—97 прафесарскі стыпендыят па кафедры гісторыі рус. права, у 1897—98 прыват-дацэнт па кафедры дзярж. права. З 1898 в.а. экстраардынарнага, з 1904 —ардынарнага праф. Томскага ун-та па кафедры гісторыі рус. права. У 1904 абараніў у Кіеўскім ун-це магістэрскую дысертацыю па дзярж. праве «Рада Вялікага княства Літоўскага ў сувязі з баярскай думай старажытнай Расіі». Пры падрыхтоўцы дысертацыі апублікаваў каштоўны зборнік дакументаў Метрыкі ВКЛ *«Зборнік матэрыялаў, што маюць дачыненне да гісторыі паноў-рады Вялікага княства Літоўскага»* (1901) і дадатак да яго (1912). У сувязі з публікацыяй кнігі «Кроўная помста і смяротнае пакаранне» (вып. 1—2, Томск, 1908—09) абвінавачаны ў супрацьурадавым выступленні, у 1911 звольнены, у 1912 прыгавораны да месяца турмы. У 1913 у Харкаўскім ун-це абараніў доктарскую дысертацыю, якая храналагічна працягвала тэму магістэрскай. З 1913 экстраардынарны, з 1914 ардынарны праф. Варшаўскага ун-та па кафедры гісторыі рус. права. З ун-там эвакуіраваўся ў Растоў-на-Доне, у 1918—19 таксама выкладаў у Данскім камерцыйным ін-це і Вышэйшых жаночых курсах. На 2 гады быў зняволены па абвінавачванні ў супрацоўніцтве з белымі, пасля жыў у Маскве. У 1925, у сувязі з абраннем правадзейным членам Усеукраінскай АН, пераехаў у Кіеў, дзе ўзначаліў Камісію па вывучэнні звычаёвага права Сац.-эканам. аддзялення АН.

*Тв.*: Учение о преступлении по Литовскому Статуту. Киев, 1894; Параллельный и систематический указатели уголовных законов Литовского Статута по трем его редакциям // Университетские известия. Киев, 1896. № 3; Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Ч. 2. Рада Великого Княжества Литовского. Вып. 1—2. Томск, 1904—12; История Западной Руси. Ростов н/Д, 1917.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 244—246; Михальченко С.И. Киевская школа в российской историографии: (школа западнорусского права). М.; Брянск, 1996; Яго ж. Юридический факультет Варшавского университета, 1869—1917 гг.: Краткий ист. очерк. Брянск, 2000.

*Валерый Пазднякоў.*

**Маліноўскі** Мікалай (18.12 або 10.9.1799, в. Махноўка Брацлаўскага пав.—29.6.1865), гісторык, выдавец гістарычных крыніц. З 1820 вучыўся ў Віленскім ун-це. У ліст. 1823—крас. 1824 зняволены за ўдзел у таварыстве філарэтаў. З 1826 працаваў у Пецярбургу ў архіве Польскага аддзела Імператарскай публічнай бібліятэкі. У 1829 вярнуўся ў Вільню, працаваў у Радзівілаўскай камісіі (да 1840). Выдаў польскі пераклад П.Каханоўскага паэмы Т.Таса «Вызвалены Іерусалім» (1826), «Крыніцы польскай гісторыі» (т. 2, 1844, з А.Пшаздзецкім), «Хроніку» М.Стрыйкоўскага (т. 1—2, 1846), пераклаў і выдаў частку «Гісторыі Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага» Б.Вапоўскага (т. 1—3, 1847—48), «Помнікі аб даўняй Польшчы з часоў Жыгімонта Аўгуста, якія ахопліваюць лісты Я.Ф.Камедоні да К.Барамея» (т. 1—2, 1847—51), творы С.Ласкага (1864). Аўтар дзённіка (выд. ў 1914 і 1921), успамінаў (1907). Чл. Віленскай археалагічнай камісіі, рэдагаваў яе «Записки» (1856, ч. 1; 1858, № 1, з А.Г.Кіркорам). Друкаваўся ў час. «Dziennik Wileński», «Teka Wileńska», «Dzieje dobroczynności krajowej i zagranicznej», газ. «Виленский вестник».

**Малчанава** Лідзія Аляксандраўна (н. 15.7.1921, в. Бузанава Астроўскага р-на Кастрамской вобл., Расія), беларускі этнограф. Д-р гіст. навук (1969). Скончыла Ленінградскі ун-т (1944), аспірантуру Ін-та этнаграфіі АН СССР (1948). З 1948 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі, у 1957—91 — Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Даследуе матэрыяльную культуру беларусаў (нар. жыллё, земляробчую тэхніку, адзенне). Адзін з аўтараў нарыса «Беларусы» для выдання «Народы Еўрапейскай часткі СССР» («Народы Европейской части СССР», т. 1, Масква, 1964), рэгіянальнага гіст.-этнаграфічнага атласа Украіны, Беларусі і Малдавіі, прац «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў» (Мінск, 1974), «Беларускае народнае адзенне» (Мінск, 1975), «Палессе: Матэрыяльная культура» (Мінск, 1988).

*Тв.*: Беларуская народная архітэктурная разьба. Мн., 1958; Материальная культура белорусов. Мн., 1968; Народная метрология: (К истории народных мер длины). Мн., 1973; Материальная культура белорусов в XVI—XVIII вв. // Вопросы истории. 1979. № 5; Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. Мн., 1981; Социально-экономические предпосылки формирования общности материальной культуры литовцев и белорусов в эпоху феодализма // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1981.

**Мальбаркскі манетны двор**, часовы манетны двор ВКЛ. Знаходзіўся непадалёк ад Мальбаркскага замка, дакладна не лакалізаваны. Біў медныя соліды караля Яна II Казіміра ў 1666. Арандатарам двара быў Анджэй Георг фон Горн, ініцыялы якога GFH змешчаны на аверсе ўнізе. Як і соліды *Ковенскага манетнага двара*, соліды М.м.д. маюць выяву часткі герба падскарбія ВКЛ Г.Крышпіна-Кіршэнштэйна (галава аленя) замест манаграмы з яго ініцыялаў і назвы пасады, у адрозненне ад солідаў манетных двароў Т.Л.Бараціні.

*Літ.*: Janušonis S. Viena 1663—1667 m. lietuviškų vario šilingų mįslių // Lietuvos istorijos metraštis. 1991 metai. Vilnius, 1993; Сінчук І.І. «Шеляжные» монетные дворы ВКЛ и медные солиды Яна Ка-

зимира в кладах // Mennice między Bałtykiem a Morzem Czarnym — wspólnota dziejów: Supraśl 10—12.IX.1998. Materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 1998.

***Іван Сінчук.***

**Мальдзіс** Адам Восіпавіч (псеўд. А.Гудас, Адам Гудас, А.Расольскі, Адам Расольскі, А.Свіслацкі; н. 7.8.1932, в. Расолы Віленска-Троцкага пав. Віленскага ваяв., цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.), беларускі літаратуразнавец, пісьменнік-публіцыст, грамадскі дзеяч. Д-р філал. навук (1987), праф. (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Скончыў БДУ (1956). Працаваў у друку, з 1962 у Ін-це л-ры АН Беларусі (з 1981 заг. аддзела). З 1991 у Нац. навук.-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны (у 1991—98 дырэктар), з 2003 у рэдакцыі газ. «Голас Радзімы». З 1987 старшыня камісіі «Вяртанне» Бел. фонду культуры, з 1991 прэзідэнт, з 2005 ганаровы старшыня Міжнар. асацыяцыі беларусістаў. Рэдактар біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (т. 1—6, Мінск, 1992—95) і час. «Кантакты і дыялогі» (1996—2002). Даследуе бел. л-ру 17—19 ст., заканамернасці яе станаўлення і гіст. развіцця, гісторыю бел. культуры, бел.-польскія, бел.-рускія і бел.-літоўскія літ. ўзаемасувязі. Адзін з аўтараў даследавання «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 2, Мінск, 1969), кніг «Садружнасць літаратур» (Мінск, 1968), «Старонкі літаратурных сувязей» (Мінск, 1970). Аўтар гіст. аповесці «Восень пасярод вясны» (Мінск, 1984), краязнаўчага нарыса «Астравеччына, край дарагі...» (Мінск, 1977), літ. партрэта «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» (Мінск, 1990). Дзярж. прэмія Беларусі імя Я.Коласа 1980 за ўдзел у 2-томным даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры»(«История белорусской советской литературы», Мінск, 1977).

*Тв.*: Творчае пабрацімства: Бел.-пол. літ. ўзаемасувязі ў XIX ст. Мн., 1966; Падарожжа ў XIX ст.: З гісторыі бел. літ., мастацтва і культуры. Мн., 1969; Традыцыі польскага Асветніцтва ў беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1972; Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974; На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980 (з В.Грыцкевічам); Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст.: Нарысы быту і звычаяў. Мн., 1982; З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987; Перазовы сяброўскіх галасоў: Бел.-літ. літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу. Мн., 1988 (з А.Лапінскене); ...І ажываюць спадчыны старонкі. Мн., 1994; Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі. Мн, 2001.

**Мальтыйскі ордэн**, Мальтанскі закон; Іерусалімскі, Родаскі і Мальтыйскі суверэнны рыцарскі шпітальны ордэн св. Іаана, духоўна-рыцарская арганізацыя і дзяржава. Узнік як брацтва пры шпіталі св. Іаана ў Іерусаліме, заснаваным італьянскімі купцамі з Амальфі каля 1070 (адсюль назва членаў ордэна — іааніты, шпітальнікі, гаспітальеры). З-за неабходнасці супрацьстаяць турэцкім нападам брацтва ператварылася ў рыцарскі ордэн, статут якога зацверджаны рымскім папам у 1113. На чале ордэна стаяў вял. магістр. Члены ордэна насілі чорныя плашчы з белым крыжом на левым баку. Ордэн стаў значнай ваеннай сілай, набыў вял. зямельныя ўладанні на Блізкім Усходзе і ў Еўропе, дзе меў падраздзяленні (прыяраты, камандорыі). Пасля падзення Іерусалімскага каралеўства ў 1291 ордэн асеў на Кіпры, а ў 1309 здабыў востраў Родас, дзе заснаваў дзяржаву. Пасля доўгай абароны ад туркаў у 1522 ордэн пакінуў Родас, у 1530 атрымаў ад імператара Карла V востраў Мальту. Іааніты вялі барацьбу з Турцыяй, змагаліся супраць піратаў. Канфіскацыя многіх ордэнскіх маёнткаў у Еўропе ў выніку Рэфармацыі, Вял. Французскай рэвалюцыі і заняцце Мальты англічанамі ў 1800 выклікала гасп. і ваенны заняпад М.о.

У Беларусі М.К.*Радзівіл* Сіротка 20.11.1610 заснаваў для свайго сына Ж.К.*Радзівіла* родавую Сталавіцкую камандорыю ордэна ў складзе маёнткаў Сталавічы (цяпер у Баранавіцкім р-не) і Пацейкі (цяпер у Капыльскім р-не); права прадстаўлення на яе належала нясвіжскім ардынатам. Сталавіцкімі камандорамі былі: Ж.К.Радзівіл (1616?—42), М.У.Юдзіцкі (1642—69), Г.А.Любамірскі (1669—88?), К.М.Пац (1688—1719), М.С.Дамброўскі (1728—40), Я.Е. дэ Сакс (сын Аўгуста II; 1741?—64), Б.І.Стэцкі (1764—76), Л.М.Радзівіл (1776—1809), Л.Л.Радзівіл (1809—10). У 1670-х г. рабіў захады па заснаванні родавай камандорыі каля Сувалкаў канцлер ВКЛ К.Ж.Пац. Мальтыйскімі рыцарамі былі некаторыя бел. шляхціцы. У 1774 у Рэчы Паспалітай створаны вял. прыярат Польшчы і Літвы з 6 камандорыямі, таксама дазволена заснаванне 8 новых родавых камандорый. Сярод першых для генерала артылерыі ВКЛ К.Н.Сапегі створана камандорыя св. Паўла (маёнтак Высокае). Родавыя камандорыі залажылі: староста інфлянцкі, кашталян троцкі, падканцлер ВКЛ К.К.Плятэр (маёнтак Кальнік у Кіеўскім ваяв.), староста бабруйскі, абозны ВКЛ М.Лопат (маёнтак Горваль у Рэчыцкім пав.), кашталян троцкі, пісар ВКЛ, ген.-лейтэнант Ю.В.Плятэр (маёнтак Талачын). У 19 ст. ўсе родавыя камандорыі скасаваны.

*Літ.*: Печникова Р.Ю. Мальтийский орден в прошлом и настоящем. М., 1990; Перминов П. Под сенью восьмиконечного креста: (Мальтийский орден и его связи с Россией). М., 1991; Андреев А., Захаров В., Настенко И. История Мальтийского ордена. М., 1999; Lange T.W. Szpitalnicy, joannici, kawalerowie maltańscy. 2 wyd. Warszawa, 1999; Пазднякоў В. Радзівіл Сіротка і ўстанаўленне сувязей з Мальтыйскім ордэнам // На шляхах да ўзаемаразумення. Мн., 2000; Zakon Maltański w Polsce. Warszawa, 2000.

***Валерый Пазднякоў.***

**Мальцаў** Аляксандр Мікалаевіч (14.10.1921, г. Цвер, Расія—21.4.1964), расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1949). Скончыў Маскоўскі ун-т (1944). З 1946 выкладаў у маскоўскіх бібліятэчным ін-це, юрыд. школе, гісторыка-архіўным ін-це, з 1954 у Маскоўскім ун-це. Вывучаў гісторыю Беларусі і Украіны 17 ст. У манаграфіі «Расія і Беларусь у сярэдзіне XVII стагоддзя» («Россия и Белоруссия в середине XVII века», Масква, 1974), прысвечанай вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, увёў у навук. ўжытак вял. дакументальны матэрыял з рас. архіваў, даследаваў ход ваен. дзеянняў, палітыку рас. улад на Беларусі адносна шляхты, духавенства, мяшчанства, сялянства, сял. рух у час вайны, узаемаадносіны рас. ўрада і ўкр. казакоў у дачыненні да Беларусі. Апублікаваў Баркулабаўскі летапіс («Археографический ежегодник за 1960 г.», 1962).

*Літ.*: А.Н.Мальцев // Археографический ежегодник за 1964 г. М., 1965 (змешчана бібліяграфія прац М.).



**Маляціцкі касцёл.** Пабудаваны ў 1787—94 па заказе магілёўскага арцыбіскупа С.Богуш-Сестранцэвіча ў в. Маляцічы (цяпер у Крычаўскім р-не) паводле праекта Л.*Гуцэвіча*. Будаўніцтвам кіраваў яго вучань Я.Падчашынскі. Касцёл — паменшаная копія сабора св. Пятра ў Рыме. Складаўся з асн. прамавугольнага ў плане аб'ёму і бакавых паўкруглых у плане каланад, якія ўтваралі невял. авальную плошчу перад будынкам. Асн. аб'ём завяршаўся купалам (на глухім шматгранным барабане), абапал яго былі 2 невял. купалы. Гал. фасад асн. аб'ёму меў ярусную кампазіцыю: ніжні (на ўзроўні 2-га паверха), раскрапаваны пілястрамі і трохчвэртнымі калонамі, меў паўцыркульныя і прамавугольныя вокны і нішы, аформленыя франтончыкамі, і завяршаўся трохвугольным франтонам у цэнтры; верхні раскрапаваны пілястрамі, паміж якімі былі прамавугольныя вокны і нішы, завяршаўся пакатым франтонам. Касцёл разбураны ў 1938.

***Валерый Марозаў.***

**Мамонічы**, беларускія купцы, грамадскія дзеячы ВКЛ, кнігавыдаўцы (гл. *Віленская друкарня Мамонічаў*). Род М. паходзіў з Магілёўшчыны. Відаць, у 1-й пал. 16 ст. яны перасяліліся ў Вільню, дзе Іван М., заможны купец і член рады Вільні, быў набілітаваны (атрымаў шляхецтва з гербам «Ліс»). Найб. вядомыя:

К у з ь м а (?—16.7.1607?), сын Івана. Заможны купец, член рады Вільні, шэраг гадоў быў бурмістрам. У 1570-я г. фінансаваў выдавецкую дзейнасць у Вільні П.*Мсціслаўца*, пасля заснаваў уласную друкарню. Належаў да правасл. брацтва Св. Тройцы, пасля прыхільнік царк. уніі.

Л у к а ш (?—19.10.1606), сын Івана. Стараста дзісенскі, з 20.12.1585 скарбны гаспадарскі. Меў некалькі маёнткаў. Фінансаваў друкарню і дастаўляў для яе паперу з уласнай паперні ў маёнтку Павільня. Належаў да правасл. брацтва Св. Тройцы, пасля прыхільнік уніі.

Л я в о н (?—пасля 1625), сын Кузьмы. Скончыў брацкую школу ў Вільні, пасля належаў да уніяцкага брацтва Св. Тройцы. Член рады Вільні. Прыхільнік канцлера ВКЛ Л.Сапегі. У рабоце друкарні ўдзельнічаў з 1593. У 1610 дамогся ад караля закрыцця правасл. *Віленскай брацкай друкарні*. У 1614 атрымаў тытул «друкар Яго Каралеўскай Мосці». Пасля 1624 перадаў друкарню базыльянам (гл. *Віленская базыльянская друкарня*).

***Валерый Пазднякоў.***



Нагерпъ зацного дому.
Его милости пна Лукаша Ивановича Мамонича. Старосты дисенского. Иск. его
Великого Княжества Литовского. Іпрім.

Л М

Да арт. **Мамонічы**. Герб і вершаванае прысвячэнне Л.Мамонічу з кнігі «Псалтыр». Вільня, 1593.

**мамрам** (ад лац. membrana пергамент), у ВКЛ папяровы або пергаментны бланк з загадзя прыкладзенай пячаткай і подпісам пэўнай асобы. Велікакняжацкія М. выкарыстоўваліся для напісання дакументаў у час адсутнасці вял. князя ў ВКЛ. Перасылаліся ў дзярж. канцылярыю, пазней пастаянна захоўваліся там пад наглядам канцлера, падканцлера і вял. пісараў, якія выдавалі іх паводле загадаў вял. князя. Велікакняжацкія М. ўтрымлівалі толькі подпіс, пячатка прыкладалася да дакумента канцлерам або падканцлерам пасля яго напісання. М. у земскім судзе выдаваўся за подпісам пісара з прыкладаннем земскай павятовай пячаткі. Ён прызначаўся для ўласнаручнага напісання істцом судовай позвы. Прыватныя асобы выдавалі М. за ўласнаручным подпісам і пячаткай у розных выпадках, напр. слугам, якія пасылаліся да інш. асобы пазычаць грошы.

*Літ.*: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Davед. Камент. Мн., 1989.

***Андрэй Рыбакоў.***

**манастыр** (грэч. monasterion), рэлігійная абшчына ў манахаў або манашак у праваслаўі і уніяцтве. У каталіцкай царкве М. называецца *кляштар*. Падзяляюцца на мужчынскія і жаночыя. На Беларусі правасл. М. з'явіліся, паводле некаторых звестак, у 10 ст. (Заслаўе). У 12 ст. вядомы 3 М. ў Полацку, 2 М. ў Тураве. У канцы 13—сярэдзіне 16 ст. заснавана каля 40 новых. 17 М. дзейнічала ў Полацкім ваяв., 7 — у Навагародскім пав., па 5 — у Пінскім і Аршанскім, па 4 — у Віцебскім і Менскім, па 3 — у Берасцейскім, Гарадзенскім, Мсціслаўскім, па 2 — у Ашмянскім, Браслаўскім, Мазырскім, Слонімскім. У выніку заключэння Берасцейскай уніі 1596 створана уніяцкая царква, да якой перайшлі правасл. М., будаваліся новыя. З пач. 17 ст. ствараліся новыя правасл. М., але іх колькасць была нешматлікай. У канцы 17—пач. 18 ст. на Гомельшчыне з'явіліся стараверскія М. — скіты.

М. Беларусі мелі ў асноўным свабодную і разнастайную планіроўку. Буйныя манастырскія комплексы абкружаліся сценамі, уздоўж іх размяшчаліся келлі, у цэнтры — царква, трапезная, званіца, калодзеж. Невял. драўляныя М. мелі лёгкія агароджы, жылыя і гасп. пабудовы, блізкія да свецкіх.

**манастырскія сяляне**, сяляне, якія былі ўласнасцю пэўнага манаскага ордэна або манастыра. Звычайна жылі і працавалі на зямлі, якая належала манастыру. Былі часткай *царкоўных сялян*. М.с. станавіліся ўласнасцю манастыроў пасля падараванняў апошнім з боку вял. князёў, магнатаў і шляхты зямельных надзелаў разам з сялянамі. З'явіліся на Беларусі, мабыць, у 12 ст. разам з заснаваннем першых правасл. манастыроў. Колькасць М.с. пачала рэзка павялічвацца з 15 ст., калі на тэр. ВКЛ пачало адкрывацца шмат каталіцкіх кляштараў, пачаўся рост *манастырскіх уладанняў*. Адзінай сістэмы падаткаабкладання ў манастырах не існавала. У пэўных выпадках манастыр дапамагаў сял. сем'ям умацаваць гаспадарку, але часам адбывалася рэзкае павелічэнне павіннаснага ўціску, каб



выправіць цяжкае эканам. становішча манастыра або атрымаць прыбытак. У манастырах, дзе было ўведзена правіла складаць інвентары і ўставы, сяляне звычайна выконвалі толькі вызначаныя ў іх павіннасці.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Манастырскія ўладанні*.

***Валянцін Голубеў.***

**манастырскія ўладанні**, зямельная і інш. ўласнасць праваслаўных, уніяцкіх (з 16 ст.) і каталіцкіх (з 15 ст.) манастыроў. Манастырская ўласнасць фарміравалася з падараванняў вял. князёў і каралёў, магнатаў, шляхты, а таксама ў выніку ўласнай гаспадарчай і інш. дзейнасці (купля, атрыманне ў спадчыну або за доўг і інш.). Ва ўласнасці манастыроў звычайна знаходзіўся комплекс культавых збудаванняў, жылых будынкаў і гаспадарчых пабудоў, у некаторых выпадках — млыны, корчмы і інш. Аснову М.у. складалі зямельныя ўладанні з паселенымі на іх *манастырскімі сялянамі*, а таксама вял. сумы грошай. Манастыры мелі льготы ў землеўладанні, не плацілі звычайных дзярж. падаткаў. Найб. буйнымі манастырамі-землеўласнікамі ў ВКЛ былі каталіцкія, а сярод іх — езуіцкія ўстановы. Перад роспускам езуіцкага ордэна ў 1773 яму належала ў ВКЛ 257 119 дзесяцін ворыва, 247 136 дзесяцін лесу, 47 610 сялян.

*Літ.*: Мараш Я.Н. Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. Мн., 1969; Ягож. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971; Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мн., 1992.

***Валянцін Голубеў.***

**мангола-татарскія напады.** Напады мангола-татарскіх атрадаў сталі важным фактарам ранняй гісторыі ВКЛ. У 1239 войска хана Батыя нанесла скрышальны ўдар на Чарнігаўскім княстве. Відаць, тады быў разбураны і Гомель, у культурным пласце якога пры археалагічных раскопках прасочваецца слой пажарышча гэтага часу. У 1240 мангола-татары захапілі і разрабавалі Кіеў, пасля Уладзімір і Галіч. Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што вясной 1241 каля Берасця нельга было «выйсці ў поле, бо быў смурод ад вельмі вялікай колькасці забітых». Відаць, гэта было наступствам паходу мангола-татарскага атрада. Землі Галіцка-Валынскага княства неаднаразова станавіліся аб'ектам мангола-татарскіх нападаў і ў 2-й пал. 13 ст. Адразу пасля вяртання з Цэнтр. Еўропы ў 1243 манголы прадпрынялі супраць яго паход, дайшлі да г. Уладава. Галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька Раманавічы былі вымушаны прызнаць вярхоўную ўладу мангольскіх ханаў і плацілі ім даніну. Гэты пабор — *татаршчына* — збіраўся з бел. зямель Пабужжа і на Пд ад Прыпяці да пач. 16 ст. Некаторыя землі Галіцка-Валынскага княства ўвайшлі ў непасрэднае падпарадкаванне мангольскай адміністрацыі. Каб знайсці апору супраць манголаў, Даніла Раманавіч у 1254 прыняў ад рымскага папы каралеўскую карону, аднак рэальнай дапамогі ад яго не атрымаў. Мангольскія ханы варожа сустрэлі ўзвышэнне літ. князёў. Каб перашкодзіць устанаўленню мірных адносін паміж ВКЛ і Галіцка-Валынскім княствам, у 1258 мангольскі военачальнік Бурундай прымусіў галіцка-валынскага кн. Данілу Раманавіча далучыцца да паходу на літ. землі. Асабіста Даніла не паехаў, а паслаў з Берасця свайго брата Васільку. Той злучыўся з манголамі, відаць, пад Навагародкам, пасля яны рушылі ва ўласна Літоўскую і ў Нальшчанскую зямлю. На зваротным шляху манголы разрабавалі зямлю яцвягаў і выйшлі да г. Дарагічын. У адказ літ. князі Войшалк і Таўцівіл адваявалі Навагародак і захапілі ў палон кн. Рамана Данілавіча. Значную ролю адыгралі манголы і ў барацьбе галіцка-валынскіх князёў з ВКЛ у 1270-я г. У 1274 кн. Леў Данілавіч папрасіў дапамогі супраць Літвы ў хана Менгу-Цімура. Той даў яму войска на чале з цемнікам Ягурчынам і загадаў далучыцца «задняпроўскім» князям (бранскаму Раману з сынам Алегам, смаленскаму Глебу і інш.). Кампанія адбылася ўзімку 1274/75. Мангольскае войска, відаць, ішло па левабярэжжы Дняпра, праз бранскія і смаленскія землі, пасля рэзка павярнула на З, на Слуцк. Яму насустрач рухаліся галіцка-валынскія князі Леў, Мсціслаў і Уладзімір, пінскія і тураўскія князі. Праз Тураў яны дайшлі да Слуцка, дзе злучыліся з манголамі і разам рушылі на Навагародак, у якога быў захоплены вакольны горад. Князі, якія не паспелі пад Навагародак, адмовіліся ад далейшага паходу ў літ. землі і вярнуліся. Манголы, відаць, такі паход ажыццявілі. Наступны паход на Літву адбыўся ўзімку 1277/78 па ініцыятыве цемніка Нагая. Па яго патрабаванні да мангольскага войска далучыліся галіцка-валынскія князі Мсціслаў, Уладзімір, а Леў паслаў свайго сына Юрыя. Мэтай паходу зноў быў Навагародак, аднак у Берасці князі даведаліся, што Навагародак ужо захоплены манголамі, і рушылі да Гародні. Відаць, летапісныя апавяданні пра гэтыя паходы сталі крыніцай легенд пра *Крутагорскую бітву* і *Магільнянскую бітву 1284*.

Гіст. крыніцы слаба асвятляюць мангола-татарскія напады на землі ВКЛ і суседнія ў 14 ст. Мяркуецца, што ў выніку мангола-татарскага нападу ў 1323 загінулі галіцка-валынскія князі Леў і Андрэй Юр'евічы. У 1333 ардынскае войска на чале з Калантаем і Чырычам і з атрадам бранскага князя хадзіла на Смаленск. Новы паход на гэты горад адбыўся ў 1340 на чале з ардынскім паслом Таўлубіем. Вырашальны ўдар па мангола-татарскіх прэтэнзіях на землі ВКЛ быў нанесены вял. князем літоўскім Альгердам у *бітве каля Сініх Вод 1363*. Аднак яшчэ доўгі час ВКЛ было аб'ектам мангола-татарскіх рабаўнічых набегаў. У 1416 хан Эдыгей разрабаваў Кіеў; гэта быў апошні буйны напад мангола-татараў ва Усх. Еўропе. У 1430/31, пасля смерці вял. князя літоўскага Вітаўта Айдар, зяць хана Улу-Мухамеда, захапіў Мцэнск, дзе падманам узяў у палон намесніка Рыгора Пратасьева; інш. ардынскія загоны даходзілі да Кіева. Пасля таго як Арду наведаў пасол новага вял. князя Пётр Мантыгірдавіч, хан адпусціў Пратасьева і палон. Новыя геапалітычныя абставіны склаліся ў Еўропе з утварэннем у канцы 15 ст. *Крымскага ханства*.

*Літ.*: Puzyna J. W sprawie pierwszych walk Litwinów z Tatarami o Ruś w latach 1238—1243 // Przegląd historyczno-wojskowy. 1937. Z. 3; Насонов А.Н. Монголы и Русь. М., 1940; Krakowski S. Polska w walce z najazdami tatarskimi w XIII wieku. Warszawa, 1956; Егоров В.Л. Историческая география Золотой Орды в XIII—XIV вв. М., 1985; Флоря Б.Н. Орда и государства Восточной Европы в середине XV века (1430—1460) // Славяне и их соседи. М., 2001. Вып. 10.

***Валерый Пазднякоў.***

**мандат** (ад лац. mandatum даручэнне, распараджэнне, загад), у ВКЛ судовая позва, якая выдавалася ад імя вял. князя дзярж. канцылярыяй у выпадках абразы манарха і дзярж. здрады, нанясення знявагі і пабояў суддзям, учыненага ў войску забойства, дэзерцірства, незаконнага спагнання завышанага мыта, нявыплаты падаткаў, адмовы даць справаздачу пра даходы і расходы, якія маюць дачыненне да дзярж. скарбу, па апеляцыі на рашэнні гродскага ці земскага судоў. М. у велікакняжацкі суд маглі выклікаць свайго пана жыхары пэўнай адм.-тэр. адзінкі па пытанні аб незаконным трыманні гэтага ўладання. Копіі М. ўпісваліся ў кнігі канцылярыі.

*Літ.*: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989.

***Андрэй Рыбакоў.***

**манетны двор**, прадпрыемства па вырабе манет, ордэнаў, медалёў і інш. металічных знакаў. У ВКЛ вядомы з канца 14 ст. Паводле часу існавання падзяляюцца на пастаянныя і часовыя, у залежнасці ад уласнасці — на дзярж., прыватныя, арандатарскія, паводле арганізацыі вытворчасці — на поўнага і няпоўнага тэхналагічнага цыкла. На дварах поўнага тэхналагічнага цыкла (звычайна пастаянных) выконвалі падрыхтоўку сплаваў, выраб бляхі (пракоўкай або вальцоўкай) і дроту (працяжкай) для манетных загатовак, выбіванне з бляхі манетных кружкоў (пры штампоўцы) або рэзку дроту на загатоўкі і наступнае іх плюшчэнне, абпал манетных загатовак або пласцін (для вальцоўкі) з іх бяленнем, механічную апрацоўку для нанясення на загатоўках выяў, перапрацоўку адходаў вытворчасці ў плавільні. М.д. няпоўнага тэхналагічнага цыкла працавалі на прывазных манетных загатоўках і займаліся толькі механічнай апрацоўкай. У ВКЛ дзейнічалі *Берасцейскі манетны двор, Віленскі манетны двор, Ковенскі манетны двор, Тыкоцінскі манетны двор*, меркавалася адчыніць *Гарадзенскі манетны двор*, на тэрыторыі Кароны Польскай дзейнічалі манетныя двары ВКЛ: *Аліўскі манетны двор, Мальбаркскі манетны двор, Уяздаўскі манетны двор*.

***Іван Сінчук.***



Да арт. **Манівідавічы**. Пячатка Манівіда (Войцеха). 1422.

**Манівідавічы**, шляхецкі род герба «Ляліва». Родапачынальнік — літ. баярын Манівід (у хрышчэнні Войцех, Альберт) Кайлікінавіч (каля 1360—1424), які ўпамінаецца з 1387 у складзе велікакняжацкай рады. З 1396 намеснік віленскі, у час заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* атрымаў герб «Ляліва» і стаў першым ваяводам віленскім. Ад вял. кн. Вітаўта атрымаў Геранёны-Суботнікі (1396), Лаздуны і Жупраны (1403) у Ашмянскім пав., Беразіно, Гняздзілавічы, Дзедзелавічы, Домжарыцы, Докшыцы, Мсціж у Харэцкай вол. і Гасцілавічы ў Лагойскім княстве (1407), Станькава ў Менскім пав., Сярпейск у Смаленскай зямлі, Брагін, Горваль і Любеч у былым Чарнігаўскім княстве. Братам Манівіда быў *Гедыгольд*. З нашчадкаў Манівіда найб. вядомыя:

Іван (Івашка) Манівідавіч (каля 1400—58), сын Манівіда. Намеснік падольскі і крамянецкі з 1437, маршалак кн. Свідрыгайлы ў 1438, ваявода троцкі з 1443, віленскі ў 1458. У дадатак да бацькоўскіх уладанняў атрымаў ад вял. кн. Казіміра Амнішава, Валожын і Даўгінава ў Менскім пав., паводле завяшчання стрыечнага брата Пятра Гедыгольдавіча — Мір (1451).

Войцех (каля 1430—75), сын Івана Манівідавіча. Кашталян віленскі з 1461, адначасова ваявода навагародскі з 1471 і падстолі ВКЛ у 1475. Памёр без нашчадкаў, яго вялізныя ўладанні адышлі да сясцёр Соф'і (жонка Мікалая Радзівіла) і Ядвігі (жонка Алехны Судзімонтавіча).

Агульнае з М. паходжанне мелі *Аляхновічы, Дарагастайскія, Забярэзінскія* і, магчыма, Вяжэвічы і *Глябовічы* (выводзілі сябе ад Вяжа, родзіча Манівіда). Прадстаўнікі гэтых родаў часам



Да арт. **Манівідавічы**. Пячатка Івана Манівідавіча. 1422.

выкарыстоўвалі прозвішча Манівід (Монвід) у якасці дадатку да ўласных прозвішчаў.

*Літ.*: Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituana-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Мантоўты**, Мантоўтавічы, шляхецкі род герба «Тапор». Родапачынальнік — літ. баярын Мантоўт (у



Да арт. **Мантоўты**. Пячатка Мантоўта (Аляксандра). 1422.

хрышчэнні Аляксандр), верагодны родзіч Бутрыма, які ў час заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* прыняў герб «Тапор». У 1422—35 Мантоўт быў старастам салечніцкім (пасля атрымаў Салечнікі ад вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча ва ўласнасць), у 1440 староста эйшышскі. Найб. вядомыя:

Міхал (?—1486), сын Мантоўта. Староста луцкі ў 1463—77, намеснік навагародскі ў 1482—84, маршалак гаспадарскі ў 1482, кашталян троцкі з 1483. Належаў да групоўкі магнатаў, якая выступала за раўнапраўныя адносіны ВКЛ і Польшчы ў рамках уніі. Узначальваў раду вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча. Меў маёнткі на Украіне,

Жырмуны каля Ліды, Шарсцін у Гомельскай вол.

Таўцівіл (Ян), сын Мантоўта, крайчы ВКЛ у 1481.

Юрый (?—1508), сын Міхала. Староста крамянецкі ў 1505—06.

***Валерый Пазднякоў.***

**Мантыгірдавічы**, Мантыгердавічы, шляхецкі род герба «Вадвіч». Родапачынальнік — літ. баярын Мантыгірд (Мантыгерд), намеснік полацкі ў 1396. Меў некалькі сыноў і пляменнікаў, з іх ад Наруша пайшоў род *Нарушэвічаў*. З прамых нашчадкаў Мантыгірда найб. вядомыя:

Пётр (Петраш; каля 1390—1459), сын Мантыгірда. У час заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* разам з братамі і родзічамі прыняў герб «Вадвіч». Староста падольскі ў 1418, маршалак надворны ў 1422—31, намеснік новагародскі ў 1431, маршалак земскі з 1434. Член рады вял. князёў Жыгімонта Кейстутавіча і Казіміра. Атрымаў Іўе ад вял. кн. Казіміра (1444) і Лоск праз шлюб з дачкой кн. Фёдара Карыбутавіча Ганнай.

Пётр Янавіч (мянушка Белы; каля 1440—99?), унук Пятра. Намеснік браслаўскі, маршалак надворны ў 1480—82, староста луцкі, маршалак валынскі ў 1487, ваявода троцкі і маршалак земскі з 1491. Неаднаразовы ўдзельнік пасольстваў вял. кн. Аляксандра ў Маскву. Уладальнік Алыкі на Валыні, Дубровы і Нядрэска ў Заслаўскім княстве, Шацка і Цітвы ў Менскім пав., Лахвы на Палессі, Іўя, Лоска, у 1492 атрымаў Нясвіж. Яго адзіны сын Ян загінуў у бітве на Вядрошы 1500, пасля чаго ўсе маёнткі адышлі да дачкі Соф'і, жонкі Станіслава Кішкі.

*Літ.*: Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Ksiastwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 185—187; Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituana-Slavica Posznaniensia. Poznań, 1989. T. 3.

***Вячаслаў Насевіч.***

**мануфактуры** (позналац. manufactura ад лац. manus рука + factura выраб), прадпрыемствы прамысловай вытворчасці, заснаваныя на падзеле працы і ручной рамесніцкай тэхніцы. У Рэчы Паспалітай першыя М. створаны ў 17 ст. Былі прадпрыемствамі вотчыннага тыпу, абслугоўваліся прымусовай



Да арт. **Мантыгірдавічы**. Пячатка Пятра, сына Мантыгірда. 1422.

працай прыгонных сялян. На іх выкарыстоўвалася рамесная тэхніка, вытворчасць была заснавана на кааперацыі і тэхнічным падзеле працы. Гэта былі гал. чынам прадпрыемствы, заснаваныя на выкарыстанні ўласнай сельскагаспадарчай і лясной сыравіны, паліва і прылад працы ўладальнікаў маёнткаў. У Беларусі першае прадпрыемства такога тыпу пабудавана ў Налібаках у 1717 (гл. *Налібоцкая шкляная мануфактура*). У 1737 пачала дзейнічаць *Урэцкая шкляная мануфактура*. Абодва прадпрыемствы належалі Радзівілам, і вырабы іх ішлі толькі на задавальненне патрэб уладальнікаў гэтых гут. У 2-й пал. 18 ст. вылучаліся *гарадзенскія каралеўскія мануфактуры*, суконныя М. ў Нясвіжы (гл. *Нясвіжская суконная мануфактура*), Менску, Берасці і М. па вытворчасці шаўковых паясоў у Слуцку (гл. *Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў*), а таксама гуты ў мяст. Ілья Менскага і Мыш (у 1780 працавала 100 чал.) Новагародскага пав., жалезаапрацоўчая М. графа І.Храптовіча ў мяст. Вішнева Ашмянскага пав. (гл. *Вішнеўская металургічная мануфактура*).

*Літ.*: Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Романовский Н.Т. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII—первая половина XIX в.). Мн., 1966; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975.

***Анатоль Люты.***

**Мараіна**, Мараіні (Maraino, Maraini) Іначэнца, архітэктар і мастак-дэкаратар 2-й пал. 18 ст. Родам з Лугана (Італія). Вучыўся ў Мілане і Брэры. З 1764 працаваў у асноўным у Польшчы (перабудова Нац. тэатра ў Варшаве і інш.). З 1.6.1777 пры двары М.К.Агінскага ў Слоніме, да 1780 кіраваў будоўляй спец. памяшкання для *Слонімскага тэатра Агінскага* («Новы дом оперы»), пісаў дэкарацыі. Пакінуў Слонім паміж 1780 і 1785. Відаць, у 1786 пісаў дэкарацыі для тэатра «Ла Скала» (Мілан).

**Мараxоўскі** Ілья, дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай, палеміст. Быў віленскім сакратаром караля Жыгімонта III Вазы. Памагаў уніяцкаму мітрапаліту І.Пацею ў барацьбе супраць праваслаўных, за што Пацей перад смерцю назначыў яго сваім пераемнікам на Уладзіміра-Берасцейскае епіскапства. Аўтар «Перыгоры...» (на польскай мове, Вільня, 1612) — твора, накіраванага супраць «Фрынаса» М.Смятрыцкага. М. ганьбіў правасл. манахаў, абураўся ідэолагамі брацкага руху, якія побач з інш. абвінавачваннямі уніяцкіх святароў выдавалі за папоўскую выдумку і выкарыстанне імі ў сваіх пропаведзях жывой гутарковай мовы. Аўтар «Размовы пра пачатак адарвання грэчаскай царквы ад рымскага касцёла і хто быў таго прычынаю...» (на польскай мове, Замосце, 1624.

*Літ.*: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968.

***Аляксандр Коршунаў.***

**Мараш** Якаў Навумавіч [25.12.1916 (7.1.1917), Гродна—25.9.1990], беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1973), праф. (1974). У 1936—39 вучыўся ў Віленскім, у 1939—40 у Львоўскім ун-це. Працаваў настаўнікам. З 1946 у Гродзенскім пед. ін-це (з 1978 Гродзенскі ун-т), выкладчык, дацэнт, у 1969—70 дэкан гіст. факультэта, у 1978—88 заг. кафедраў гісторыі СССР і гісторыі БССР. Асн. тэмы навук. даследаванняў — гісторыя каталіцкай царквы на тэр. Беларусі і Літвы (пераважна 16—18 ст.): зямельная ўласнасць епархій і манаскіх ордэнаў, становішча сялянства ў царк. уладаннях, роля Рыма і езуітаў у падрыхтоўцы Берасцейскай уніі 1596, барацьба каталіцкага духавенства супраць ідэй вальнадумства і атэізму. Удзельнічаў у выяўленні і археаграфічнай апрацоўцы дакументаў і матэрыялаў для зборніка «Беларусь у эпоху феадалізму» (т. 1—2, 1959—60). Распрацоўваў пытанні методыкі выкладання гісторыі ў сярэд-



няй і вышэйшай школе. Аўтар артыкулаў па гісторыі г. Гродна і інш. населеных пунктаў Гродзеншчыны.

*Тв.*: Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. Мн., 1969; Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971; Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974; Студенческий научно-исследовательский кружок. Мн., 1976 (2 изд. 1989); Политика Ватикана и католической церкви в Западной Белоруссии (1918—1939). Мн., 1983; Мосты: Ист.-эконом. очерк. Мн., 1986 (з І.І.Коўкелем); Гродно. Мн., 1987 (з І.І.Коўкелем); Іўе: Гіст.-эканам. нарыс. Мн., 1991 (з М.В.Васілючкам, І.П.Крэнем).

*Літ.*: Ботвинник М. Я.Н.Мараш: Историографический очерк. Мн., 2006 (змешчана бібліяграфія прац М.).

***Ігар Фёдараў.***

**Марашэўскі** Каятан, бел. драматург канца 18 ст. Праф. рыторыкі і паэтыкі Забельскага дамініканскага калегіума. Аўтар бел.-польскай «Камедыі» і польскамоўнай трагедыі «Свабода ў няволі» (пастаўлены ў 1787 у мясц. школьным тэатры). У «Камедыі» паказана цяжкае жыццё прыгоннага селяніна Дзёмкі, выказваецца асветніцкая думка, што шчасце залежыць не ад боскага наканавання, а ад чалавечых учынкаў. Твор напісаны ў адпаведнасці з эстэтыкай класіцызму, аднак адчуваецца ўплыў барочных інтэрмедый, якія ўпершыню ў бел. л-ры сінтэзуюцца ў камедыю. Ідэі асветніцтва выявіліся ў трагедыі «Свабода ў няволі», дзе гал. герой — рымскі палкаводзец Велізарый вышэй за асабістыя інтарэсы ставіць інтарэсы радзімы. «Камедыя» ўпершыню апублікавана У.Ператцам («Известия Отделения русского языка и словесности императорской Академии наук», 1911, т. XVI, кн. 3). Творы М. захаваліся ў рукапісным зборніку, які зберагаецца ў б-цы АН Літвы.

*Тв.*: Камедыя // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. 2 выд. Мн., 1997. Т. 1.

*Літ.*: Усікаў Я.К. Беларуская камедыя: (Ля вытокаў жанру). Мн., 1964. С. 151—195; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 320—335.

***Адам Мальдзіс.***

**маргавое**, у ВКЛ у 16—18 ст. плата сялян феадалам за карыстанне агародамі і зямельнымі наддаткамі (вымяраліся *маргамі*).

**Маржэрэт,** Маржэрэ (Margeret) Жак (каля 1550 або 1560, г. Асон, Францыя—пач. 1620-х г.), французскі афіцэр-авантурыст, аўтар запісак. У 1600 у Варшаве завербаваўся ў рас. армію, дзе ў чыне капітана камандаваў ротай. У 1605 удзельнічаў у бітве пры Дабрынічах супраць войска Лжэдзмітрыя І, у 1605—06 узначальваў адзін з атрадаў яго гвардыі. Пасля гібелі самазванца ў вер. 1606 пакінуў Расію. У 1607 выдаў у Парыжы кнігу «Стан Расійскай імперыі і вялікага княства Масковіі», у якой апісаў нар. побыт, дзярж. лад Расіі, паліт. падзеі 1590—1605, вял. пасольства ў Маскву канцлера ВКЛ Л.Сапегі ў 1600—01 і інш. Даказваў, што Лжэдзмітрый быў сапраўдным сынам Івана IV, адзначаў, што палякі называлі Белай Руссю тэр. Расіі, а Чорнай Руссю — тэр. Беларусі. Неўзабаве вярнуўся ў Расію і паступіў на службу да Лжэдзмітрыя II, потым у час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* — да гетмана С.Жалкеўскага. У 1611 выехаў у Польшчу, дзе пражыў апошнія гады, гандляр і паліт. агент французскага ўрада.

*Тв.*: Рус. пер. — Россия начала XVII в.: Зап. капитана Маржерета. М., 1982.

***Валерый Пазднякоў.***

**Марзалюк** Ігар Аляксандравіч (н. 11.9.1968, г.п. Краснаполле Магілёўскай вобл.), бел. археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (2004). Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т (1992). Працаваў у Магілёве ў архітэктурна-рэстаўрацыйнай фірме АРТ-«М». З 1996 выкладае ў Магілёўскім педагагічным ін-це (з 1997 Магілёўскі дзярж. ун-т). Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру бел. сярэдневяковага горада, менталітэт насельніцтва Беларусі эпохі феадалізму. У выніку раскопак у Магілёве ўстанавіў існаванне з 12 ст. гарадзішча на гары «Магіла», вывучае сац. тапаграфію горада.

*Тв.*: Гісторыя рэлігіі Беларусі (X—XVIII стст.). Магілёў, 1997; Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах. Магілёў, 1997 (з А.Р.Агеевым, І.А.Пушкіным; 2 выд. 1999); Магілёў у XII—XVIII стст.: людзі і рэчы. Мн., 1998; Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII стст.). Магілёў, 2003.

**Маркевіч** Арсень Іванавіч [30.3 (11.4).1855, Брэст—18.1.1942], гісторык, грамадскі дзеяч. Чл.-кар. АН СССР (1927), прафесар. Скончыў Варшаўскі ун-т (1876). Выкладаў у сярэдніх навучальных установах Холма (цяпер Хелм, Польшча) і Шаўляў (цяпер Шаўляй, Літва). Вывучаў міжслав. сувязі ў 17 ст., дзейнасць Ю.Крыжаніча, Афанасія Філіповіча. З 1883 у Сімферопалі. Старшыня Таўрычаскай вучонай архіўнай камісіі (1908—27, з 1923 — Таўрычаскае таварыства гісторыі, археалогіі і этнаграфіі). Адзін з арганізатараў Таўрычаскага ун-та (потым педагагічны ін-т), дзе з 1918 дацэнт, пасля звышштатны прафесар (да 1930). У 1930-я г. жыў у Ленінградзе, дзе і памёр. Аўтар прац па археалогіі і гісторыі Крыма.

*Тв.*: Юрий Крижанич и его литературная деятельность: Ист.-лит. очерк. Варшава, 1876; Афанасий Филиппович, игумен брестский. Варшава, 1880.

*Літ.*: Непомнящий А.А. Арсений Маркевич и развитие историко-краеведческой библиографии Крыма в конце XIX—начале XX веков // Историко-библиографические исследования. СПб., 2002. Вып. 9 (змешчана бібліяграфія прац М.).

**Марозава** (Палуцкая) Святлана Валянцінаўна (н. 22.11.1954, в. Ілья Маладзечанскай вобл., цяпер у Вілейскім р-не Мінскай вобл.), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (2002). Скончыла Гродзенскі педагагічны ін-т (1977). З 1979 у Гродзенскім ун-це (выкладчык, дацэнт, з 2002 праф. кафедры гісторыі Беларусі). Даследуе гісторыю уніяцкай царквы на Беларусі, гісторыю Гродзеншчыны. Адзін з аўтараў навучальных дапаможнікаў для ВНУ «Гісторыя Беларусі: Са старажытных часоў да канца 18 стагоддзя» (ч. 1—2, 2002), «Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі» (2003).

*Тв.*: Наш край: Гродненщина в IX—XIII вв. Гродно, 1990; Пісьмовыя крыніцы па гісторыі Беларусі IX—XVIII ст. Гродна, 1993; Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596—1839 гг.). Гродна, 1996; Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596—1839 гады). Гродна, 2001; Берасцейская царкоўная унія 1596 г. у беларускай гістарыяграфіі. Гродна, 2002.

**Марцін з Радама** (?—пасля 1501), дзеяч каталіцкай царквы ВКЛ. У 1467 паступіў у Кракаўскі ун-т. Пасля прыняцця духоўнага сану паміж 1486 і 1495 прыбыў у Вільню. Стаў блізкім супрацоўнікам віленскага біскупа Войцеха Табара. Віленскі канонік з 1495 і



Ordo ad viſitandum infirmum:
N primis dicantur: Septem
pſalmi cum ſequentibus anti
phonis ⁊ letania que ſequitur
Item ſi infirmus ceperit ago
nizare preſbitero adveniente
pretermiſſis omnibus ſtatim
inungitur ifirmus cum ſacro
oleo dicendo illas orationes
Deinde preſbiter interrogat
infirmum ſi eſt confirmatus
ab Epiſcopo vel non tunc vn
gatur Deinde dicantur Sep
tempſalmi cum letania et ora
tionibus ſequentibus: Sequi
tur átiphona prima ſup pſal:
mum Pſalm⁹: Domine ne in
furore tuo An̄: Sana domine
infirmū iſtum cuius oſſa turbata ſunt
et cuius anima turbata eſt valde. ſed

**Марцін з Радама**. Агенда. Гданьск. 1499. 1-я старонка тэксту.

дэкан з 1501. Відаць, па прапанове Табара для літургічнай практыкі склаў і выдаў у 1499 у гданьскай друкарні Конрада Баўмгарта спецыяльна для ўжытку ў Віленскай дыяцэзіі кнігу «Агенда, або Пахавальныя боскія свяшчэнныя ўрачыстасці» («Agenda sive Exsequiale divinorum sacramentorum»). У кнізе змешчаны правілы, што дзейнічалі ў дыяцэзіі, і малітвы, якія трэба прамаўляць пры выкананні абрадаў, рытуалаў і ў час працэсій. Гэта было першае друкаванае выданне, прызначанае спецыяльна для ВКЛ. Вылучаецца дасканалым друкам з выкарыстаннем чырвонай фарбы, мае 62 аркушы, упрыгожана амаль 200 ініцыяламі.

*Валерый Пазднякоў.*

**маршалак**, урад (пасада) у ВКЛ. 1) М. вялікі (у 15 ст. земскі, у 16 ст. найвышэйшы) — найвышэйшы ўраднік ВКЛ у пач. 15—18 ст. Кіраваў дваром вял. князя, прымаў замежных паслоў, вышэйшых ураднікаў дзяржавы, назіраў за этыкетам, загадваў прыдворнай стражаю і каралеўскай гвардыяй, сачыў за бяспекаю манарха, прызначаў *дваран*. Разглядаў здарэнні і злачынствы, здзейсненыя пры двары і ў месцы знаходжання вял. князя. Пасля Люблінскай уніі 1569 — сенатар. Калі сойм адбываўся ў ВКЛ, склікаў і вёў пасяджэнні Сената Рэчы Паспалітай. 2) М. гаспадарскі — ураднік пры двары вял. князя ў канцы 14—пач. 17 ст. Выконваў спец. даручэнні гаспадара, кіраваў прыдворнымі службамі. На працягу 15—1-й пал. 16 ст. колькасць М. гаспадарскіх значна павялічылася і часам дасягала 10 і больш чалавек. 3) М. павятовы — мясц. ўрад, які ўзнік у час правядзення адм.-тэр. рэформы 1565—66 пры трансфармацыі ўрада М. гаспадарскага. Кіраваў шляхтай у павеце, склікаў і вёў павятовы соймік. Такога ўрада не было ў гал. павеце ваяводства, дзе функцыі М. выконваў *кашталян*. 4) М. дворны (надворны) — ураднік у канцы 15—18 ст. Загадваў гасп. справамі велікакняжацкага двара, кіраваў М. гаспадарскімі. Быў намеснікам М. вялікага. З часу праўлення Уладзіслава IV М. дворны стаў сенатарам. 5) М. соймавы — ураднік, які выбіраўся пасламі Пасольскай Ізбы (ніжэйшай палаты сойма) для вядзення пасяджэнняў. Прызначаў сакратара. Рабіў справаздачу перад манархам, зачытваў ухвалы Пасольскай Ізбы. 6) М. трыбунальскі — ураднік, які выбіраўся суддзямі Трыбунала ВКЛ для кіравання пасяджэннямі і судаводства. 7) М. дворскі — гаспадарчы ўраднік пры дварах членаў манаршай сям'і, біскупаў, магнатаў, кіраўнік прыдворных служак.

*Літ.*: Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. T. 11. Kórnik, 1994; Радаман А.А. Кіраванне соймікавымі пасяджэннямі ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім у другой палове XVI—пачатку XVII ст. // Весці Бел. дзярж. пед. універсітэта. 2002. № 2.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Марыконі**, шляхецкі род уласнага герба. Паходзілі з Італіі, з сярэдзіны 17 ст. ў ВКЛ, у 1673 атрымалі індыгенат. Асн. маёнткі М. знаходзіліся ў Вількамірскім пав. Найб. вядомыя:

Міхал Тадэвуш (пасля 1720—88), сын Крыштофа, падстолія вількамірскага. Каля 1740 як стараста бальніцкі пачаў служыць у падчашага ВКЛ Г.Ф.*Радзівіла*. Выконваў адм.-гаспадарчыя даручэнні. Стараста памускі з 1747, пасол на соймы 1761, 1764, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1759 (віцэ-маршалак). З 1771 падкаморы вількамірскі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе камісіі па дэлімітацыі граніцы з Расіяй.

Юзаф (пасля 1747—пасля 1794), сын Міхала Тадэвуша. Падстараста вількамірскі. У час *паўстання 1794* быў прызначаны зямянскім генерал-маёрам Вількамірскага пав., выставіў уласны атрад кавалерыі. У жн. 1794 удзельнічаў у рэйдзе М.К.Агінскага на Інфлянты, пасля ўзначаліў гэты атрад, давёў яго да Варшавы.

Марцыян (?—пасля 1789). Пісар скарбовы ВКЛ у 1748—90, стараста вількамірскі ў 1773—75.

Бенядзікт Беньямін (?—пасля 1794), сын Марцыяна, старасты вількамірскага і пісара скарбовага ВКЛ. Дзякуючы сваяцкім сувязям з А.*Тызенгаўзам* зрабіў паліт. кар'еру. Каралеўскі шамбялян з 1773, пасол на соймы 1773—75, 1776 (абраны чл. Пастаяннай Рады), 1780, 1784, 1786 (абраны ў Скарбовую камісію ВКЛ, дзе быў да 1792). Вял. пісар ВКЛ і стараста пінскі з 1777. 24.4.1794 падпісаў у Вільні акт паўстання, чл. *Найвышэйшай літоўскай рады* (у складзе дэпутацыі бяспекі). З 1.6.1794 чл. *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага*. Пры ўзяцці Вільні 12.8.1794 знаходзіўся ў Коўне. Далейшы лёс не вядомы.

Ігнат (?—да 22.8.1823), брат Бенядзікта Беньяміна. Дзякуючы Тызенгаўзу з 1777 стараста берасцейскі (у 1783 прадаў пасаду К.Н.Сапегу), стараста вількамірскі ў 1781—88. Пісар скарбовы ВКЛ з 1790. Пасол на соймы 1778, 1788, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1779. У 1793 прызначаны каралём у Камісію люстрацыі і ліквідацыі літ. войска. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794, стаў дэлегатам Вількамірскага пав. ў Найвышэйшай літ. радзе. У 1812 удзельнічаў у мясцовай адміністрацыі, створанай Напалеонам.

*Валерый Пазднякоў.*

**марыявіткі**, манахіні каталіцкай кангрэгацыі (супольнасці) Жыцця Марыі (лац. Congregatio Maria Vitae). Створана ў 1737 па ініцыятыве пробашча касцёла св. Стафана ў Вільні Юзафа Стафана Турчыновіча-Сушыцкага (1697—1773). Супольнасць зацвердзіў у 1752 папа Бенядзікт XIV. Вопратка М. — габіт попельнага колеру з вышытым чырвонай ніткай імем Марыі. Ставілі за мэту наследаванне дабрачыннаму жыццю Дзевы Марыі праз апеку над беднымі дзяўчынкамі і сіротамі. Дзейнасць М. была накіравана на перавод дзяўчат і жанчын з іудаізму ў каталіц-

тва. Дамы М. былі створаны на бел., літ., укр. землях: у Алыцы, Бабруйску, Бялынічах, Бярдзічаве, Вільні, Віцебску, Глуску, Коўне, Крожах, Магілёве, Мазыры, Менску, Мсціславе, Навагародку, Оршы, Пінску, Полацку, Раманаве, Слоніме, Слуцку, Халопенічах, Чашніках і інш. Маёмасць дамоў складалася з дабрачынных ахвяраванняў: зямель, будынкаў, грошай, а таксама асабістых заробкаў М., на якія ўтрымліваліся манашкі, неафіткі, бедныя дзяўчаты. У канцы 1750—60-х г. М. падвергліся нападкам з боку свецкіх і духоўных асоб. Пасля смерці Турчыновіча-Сушыцкага з мэтай стабілізацыі дзейнасці супольнасці іх візітатарка Ганна Пацёмкіна здзейсніла падарожжа ў Рым, дзе папа Клімент XIV у 1774 зацвердзіў статут кангрэгацыі. Але вярнуць страчаныя пазіцыі М. не здолелі. У 1830 супольнасць налічвала 130 манашак і 17 дамоў (Бабруйск, Ваўкавыск, Вільня, Віцебск, Галоўчын, Гародня, Коўна, Крожы, Мазыр, Менск, Мсціслаўль, Навагародак, Орша, Пінск, Полацк, Слонім, Халопенічы). У 1864 большасць дамоў М. скасавана. Да пач. 20 ст. на бел. землях М. працягвалі дзейнасць толькі ў Віцебску і Магілёве.

*Літ.*: Chodzko J.B. Diecezja mińska około 1830 roku. T. 2. Lublin, 1998; Marecki J. Zakony w Polsce. Kraków, 2000.

***Людміла Карнілава.***

**марыяне**, члены каталіцкага манаскага ордэна Таварыства бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі (лац. Congregatio Marianorum Immaculatae Conceptionis). Ордэн заснаваны былым піярам С.Папчынскім у Карабеўскай Пушчы (Польшча), прызнаны пазнанскім біскупам Г.Свянцянскім 24.10.1673 (лічыцца датай узнікнення ордэна) і ў 1699 зацверджаны папам рымскім Інакенціем XII. Апекуном ордэна быў кароль Ян III Сабескі. Паводле статута гал. мэтамі ордэна былі пашырэнне культу Найсвяцейшай Дзевы Марыі і душпастырская дзейнасць сярод простых людзей. Да канца 17 ст. М. мелі ў Рэчы Паспалітай 3 дамы (кляштары). У сярэдзіне 18 ст. М. з'явіліся ў ВКЛ:у мяст. Стаўраполе (пазней Марыямполе, Ковенскі пав.), в. Расна (Берасцейскі пав.), в. Міраслаў (Троцкі пав.). У канцы 18 ст. на тэр. Віленскага біскупства дзейнічалі 2 кляштары (Марыямполе і Міраслаў) і 2 рэзідэнцыі: Янаў-Палескі (1776—каля 1800; цяпер г. Іванава Брэсцкай вобл.) і Воўпа (зачынены каля 1814, цяпер Ваўкавыскі р-н). На працягу 19 ст. ўстановы М. у Рас. імперыі скасоўваліся, у 1904 зачынены апошні кляштар у Марыямполі.

***Янка Траццяк.***



І.Я.**Масальскі**. Мастак Ф.Смуглевіч. 1785—86.

**Масальскі** Ігнацій Якуб (30.7.1729, в. Алекшыцы Гарадзенскага пав.—28.6.1794), рэлігійны, грамадскі і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. З роду князёў *Масальскіх*. Д-р кананічнага і рымскага права (1752). Вышэйшую адукацыю атрымаў у Рыме. З 1752 рэферэндар ВКЛ, з 1762 — біскуп віленскі. На сойме 1766 выступіў супраць ураўнавання дысідэнтаў у правах з католікамі. Пагадзіўся на 1-ы падзел Рэчы Паспалітай (1772). На *сойме 1773—75* выказаўся за стварэнне *Адукацыйнай камісіі*, стаў яе першым старшынёй (1773—80). Гал. ўвагу аддаваў стварэнню шырокай сеткі пачатковых школ. У 1774 выступіў на сойме за вызваленне сялян ад прыгону і надзяленне іх зямлёй, у тым жа годзе перавёў частку сялян свайго маёнтка каля Ігумена з паншчыны на чынш. На *Чатырохгадовым сойме 1788—92* выступаў супраць прагрэсіўных рэформ; падтрымаў *Таргавіцкую канфедэрацыю*, якая прывяла да 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793). Асудзіў *паўстанне 1794*. Арыштаваны паводле загаду Т.Касцюшкі і пакараны смерцю за здраду нац. інтарэсам. Адна з самых супярэчлівых асоб сярод прадстаўнікоў ідэалогіі Асветніцтва ў Рэчы Паспалітай 2-й пал. 18 ст.

***Вячаслаў Шалькевіч.***

**Масальскі** Міхал Юзаф (да 1700—26.1.1768), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Масальскіх*. Пісар ВКЛ і гарадзенскі судовы стараста з 1726, ваявода мсціслаўскі з 1737, кашталян троцкі з 1742 і віленскі з 1744, польны гетман ВКЛ з 1744, вял. гетман ВКЛ з 1762. Адукацыю атрымаў у Віленскай акадэміі. З 1718 пастаянна прымаў удзел у соймах. Выступаў як прыхільнік каралеўскага двара і прыдворнай партыі Чартарыйскіх. У канфлікце паміж Сапегамі і Радзівіламі за *«Нойбургскія маёнткі»* падтрымаў апошніх і перашкаджаў сапегаўскім саюзнікам Агінскім на гарадзенскім сойміку. У час бескаралеўя пасля смерці Аўгуста II быў адным з кандыдатаў на маршалка канвакацыйнага сойма 1733. Пасля адначасовай адмовы 2 канкурэнтаў, мерацкага старасты А.К.Сапегі (кандыдат Патоцкіх і магнатаў ВКЛ) і лідскага старасты Ю.Сцыпіёна (кандыдат Чартарыйскіх) аднагалосна быў абраны соймавым маршалкам. Садзейнічаў пры-




Эпітафія І.Я.**Масальскага**. Невядомы віленскі злотнік. 1794—95.

хільнікам Станіслава Ляшчынскага ў прыняцці пастановы аб выбары каралём паляка і каталіка. Прымаў актыўны ўдзел у канфедэрацыі ў абарону абрання Станіслава Ляшчынскага. Вясной 1735, у адсутнасці рэгіментара ВКЛ А.Пацея, камандаваў войскамі ВКЛ і вывеў іх у Карону Польскую. Знаходзіўся пры Станіславе Ляшчынскім у Караляўцы. У 1736 прызнаў каралём Аўгуста III. У інтарэсах Сапегаў спрабаваў у час працы камісіі ВКЛ па павелічэнні войска абцяжарыць падаткамі «Нойбургскія маёнткі» Радзівілаў. У 1737—38 хадзілі пагалоскі, што М. ўзначаліць антыкаралеўскую канфедэрацыю, створаную ў інтарэсах Станіслава Ляшчынскага. Працягваў трымаць бок Сапегаў у іх маёмасных канфліктах з Радзівіламі. У 1741 дзякуючы падтрымцы Сапегаў стаў маршалкам Трыбунала ВКЛ. Перашкодзіў Радзівілам, якія мелі ў Трыбунале большасць прыхільнікаў-суддзяў, разглядаць судовую справу з Сапегамі. У час абвастрэння канфлікту паміж Радзівіламі і Сапегамі ў Трыбунале ВКЛ 1743 зноў заняў бок апошніх. У 1747—48 яго адносіны з Сапегамі астылі і адбылося далейшае збліжэнне з Чартарыйскімі. Прымаў актыўны ўдзел у іх спробах рэфармаваць дзяржаву. Пасля разрыву Чартарыйскіх з каралеўскім дваром застаўся іх саюзнікам. У 1756 кіраваў іх прыхільнікамі супраць Радзівілаў у час рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ і дамогся абрання трыбунальскім маршалкам падскарбія ВКЛ Е.Флемінга. У 1762 пачалося ахаладжэнне адносін М. з Чартарыйскімі, выкліканае імкненнем апошніх раздзяліць пасады віленскага ваяводы і вял. гетмана ВКЛ, на якія прэтэндаваў М. пасля смерці М.К.Радзівіла. М. разам са сваімі сынамі спрабаваў адыгрываць самастойную ролю ў барацьбе Чартарыйскіх і Радзівілаў. Пры фінансавай падтрымцы Расіі ў 1763 зноў выступіў з прыхільнікамі Чартарыйскіх у час рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ і падпісаў з імі маніфест супраць К.С.Радзівіла. У час бескаралеўя пасля смерці Аўгуста III прымаў актыўны ўдзел у стварэнні прыхільнікамі Чартарыйскіх Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ і абранні каралём Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Прыняцце каранацыйным соймам 1764 пастановы аб стварэнні Вайсковай камісіі ВКЛ, якая абмяжоўвала правы гетманаў, прывяла да разрыву М. з Чартарыйскімі. Перашкаджаў Станіславу Аўгусту Панятоўскаму арганізаваць пракаралеўскую партыю ў ВКЛ і імкнуўся стварыць моцную групоўку Масальскіх. Яго наступная дзейнасць была накіравана на вяртанне ранейшых правоў гетманам.



М.Ю.**Масальскі**. Мастак Ш.Чаховіч.

*Літ.*: Konopczyński W. Polska przed wojną siedmioletnią // Biblioteka Warszawska. 1907. T. 1; Яго ж. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Яго ж. Od Sobieskiego do Kościuszki: Szkice, drobiazgi, fraszki historyczne. Kraków, 1921; Zielińska Z. Walka «Familii» o reforme Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Яе ж. Studia z dziejów stosunków polsko-rosyjskich w XVIII wieku. Warszawa, 2001; Czeppe M. Kamaryla pana z Dukli: Kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha, 1750—1763. Warszawa, 1998; Palkij H. Praca komisji aukcji wojska w latach 1736—1738 // Kwartalnik historyczny. 1999. Z. l; Яго ж. Sejmy 1736 i 1738 roku: U początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej. Kraków, 2000; Szklarska E. Kwestia wykluczenia cudzoziemca od tronu na sejmie konwokacyjnym 1733 r. // Między Zachodem a Wschodem. Toruń, 2003. T. 2;.

***Андрэй Мацук.***

**Масальскія**, княжацкі род уласнага герба «Масальскі». Па паходжанні Рурыкавічы, адгалінаванне чарнігаўскіх князёў. Святаслаў Цітавіч Карачаўскі ў шлюбе з княгіняй Фядораю, дачкой вял. князя літоўскага Альгерда, меў 7 сыноў і дачку. Адзін з іх — Юрый — у канцы 14 ст. атрымаў ва ўдзел частку Карачаўскага княства з г. Масальск. Яго сыны Васіль, Уладзімір і Сямён супольна валодалі Масальскім княствам (у 1492 яно захоплена вял. князем маскоўскім Іванам III).

Васіль Юр'евіч меў сыноў Сямёна, Міхаіла і Фёдара. Міхаіл Васілевіч валодаў маёнткамі Пасконь і Грэбіна на Смаленшчыне, меў сыноў Васіля, Сямёна, Пятра, Фёдара і Барыса. Васіль Міхайлавіч выехаў у Маскоўскае княства, дзе яго называлі Ліцьвінам, даў пачатак рас. князям Ліцьвінавым-Масальскім. Сыны Сямёна Міхайлавіча таксама з'ехалі ў Маскоўскую дзяржаву, адзін з іх — Васіль — меў мянушку Кальцо, ад яго пайшлі князі Кальцовы-Масальскія. Фёдар Міхайлавіч у *бітве на Вядрошы 1500* трапіў у маскоўскі палон, дзе прабыў 9 гадоў. Па вяртанні атрымаў маёнтак Алекшыцы (Гарадзенскі пав.), стаў пачынальнікам алекшыцкай лініі. Ад унука Барыса Міхайлавіча Рыгора Афанасьевіча ідзе лінія М. на Рачках і Сапежышках. Фёдар, сын Васіля Юр'евіча, меў 4 сыноў, ад яго сына Васіля Фёдаравіча ідзе валынская лінія М.

Уладзімір Юр'евіч меў сыноў Цімафея і Алехну. Цімафей, акольнічы смаленскі, намеснік дубровенскі, у 1487 і 1488 узначальваў пасольства ў Вял. княства Маскоўскае. У 1496 ат-



Герб князёў **Масальскіх** на келіху. 4-я чвэрць 18 ст.




Да арт. **Масальскія**. А.Р.Масальскі. 1-я пал. 17 ст.

рымаў ад вял. князя літоўскага Казіміра г. Друя; пачынальнік браслаўскай лініі. Алехна ў бітве на Вядрошы 1500 трапіў у палон, па вяртанні атрымаў маёнтак Алтупава (Ваўкавыскі пав.) і Рускае Сяло (Мерацкі пав.); пачынальнік ваўкавыскай лініі.

Сямён Юр'евіч меў сыноў Івана і Андрэя. У Івана былі сыны Фёдар, Дзмітрый і Сямён (2 апошнія ў пач. 16 ст. з'ехалі ў Маскоўскае княства). Дзмітрый меў 4 сыноў, з якіх Іван меў мянушку Клубок, пачынальнік роду князёў Клубковых-Масальскіх.

З алекшыцкай лініі найб. вядомыя Андрэй Фёдаравіч (?—1651), маршалак гарадзенскі з 1618, кашталян берасцейскі з 1627, ваявода менскі з 1643 і берасцейскі з 1645, М.Ю.*Масальскі* (?—1768) і І.Я.*Масальскі* (1729—94). З лініі на Рачках і Сапежышках найб. вядомы Аляксандр Рыгоравіч (?—пахаваны 19.5.1643), маршалак ковенскі з 1617, кашталян дорпацкі з 1627 і смаленскі з 1631, ваявода менскі з 1638.

*Літ.*: Бранденбург Н.Е. Род князей Мосальских (XIV—XIX в.). СПб., 1892; Власьев Г.А. Потомство Рюрика. Т. 1, ч. 1. СПб., 1906.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Масква** (рус. Москва, цяпер сталіца Расійскай Федэрацыі), сталіца *Маскоўскага вялікага княства*, пасля *Рускай цэнтралізаванай дзяржавы*. У М. пражывала шмат выхадцаў з Беларусі, многія мясціны і гар. раёны звязаны з гісторыяй ВКЛ.

Літоўскі пасольскі двор (Панскі польскі двор) існаваў у 16—17 ст. Першы вядомы пасольскі двор ВКЛ размяшчаўся на Успенскім яры, паміж вул. Нікіцінскай і Цвярской. У 1520-я г. тут пабудаваны двор для імператарскіх паслоў, у 1530-я г. ён адведзены для паслоў ВКЛ, з таго часу называўся Літоўскім. У 1560-я г. пераведзены на Пакроўку каля Паганага стаўка (цяпер Чыстыя Пруды). Не пазней 1601 размяшчаўся на вул. Ільінка ў Кітай-горадзе, тут пабудаваны мураваны 3-павярховы будынак з галерэяй і вял. агароджанай тэрыторыяй. Ліквідаваны ў сярэдзіне 17 ст. паводле указа цара Міхаіла Фёдаравіча.

Літоўскі купецкі двор існаваў з 15 ст. на вул. Ільінка ў Кітай-горадзе як Старапанскі (Панскі) двор. З 1508 размяшчаўся ў раёне Варварскага крыжа (цяпер вул. Разіна). Тут купцы з ВКЛ і Польшчы вялі аптовы і рознічны гандаль сваімі таварамі, для чаго былі створаны Панскі рад і Смаленскі іншаземны суконны рад. У канцы 16 ст. купецкі двор перанесены да царквы Грэбнеўскай Божай Маці (на Лубянскай пл.), дзе створаны Панскі новы, або Літ. гасціны, двор. Праіснаваў да 2-й пал. 17 ст.

Налі (Налейка, Наліўкі) — першая слабада іншаземцаў у Маскве. Вядома паводле звестак С.Герберштэйна. Існавала з пач. 16 ст. ў раёне вул. Якіманка (за сучасным Спасаналіўкаўскім завулкам). Заснавана па загадзе вял. кн. Васіля III для драбаў (пешых воінаў), у асноўным выхадцаў з ВКЛ. Жыхары слабады (у адрозненне ад іншых жыхароў Масквы) мелі права варыць піва і мёд увесь год і, як мяркуе Герберштэйн, назва паходзіць ад слова «налей», якое тут часта гучала. Паколькі слабада была заселена вайскоўцамі, яе размясцілі па суседстве з Крымскім бродам — найб. небяспечным месцам у час татарскіх наездаў. Пры ўзнікненні слабады сярод яе насельніцтва пераважалі беларусы, але з-за наплыву людзей з Зах. Еўропы яна паступова страчвала свой бел. характар. Як мяркуецца, Налі знішчаны ў 1571 у час наезду хана Даўлет-Гірэя, калі М. вынішчыў вял. пажар.

Ганчарная слабада была месцам пасялення ганчароў, цагельнікаў і кафляроў у 16—17 ст. Знаходзілася за р. Яўза, на месцы сучасных Ганчарных завулкаў і Ганчарнай набярэжнай. Упершыню згадваецца ў 1547. У 1638 налічвала 57 двароў, у 1679 — 89. Сюды пераселены ганчары і кафляры, паланёныя на тэрыторыі Беларусі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1667 на жыхарства ў слабаду пераведзены бел. кафляры з Уваскрасенскага манастыра на Істры. Яны ўвайшлі ў штат «дварцовых» майстроў. Пасля пасялення бел. майстроў ганчарная вытворчасць тут паднялася да ўзроўню мануфактуры: з'явіліся вытворчыя будынкі з саматужным абсталяваннем, аформіўся падзел працы (абпальшчыкі, цагельнікі, чорнарабочыя — «ярыжныя» і г.д.). Бел. майстры прынеслі ў М. вытворчасць паліхромнай кафлі і керамічнай скульптуры. Сярод іх прац у М. аздобы Круціцкага падворка, цэркваў Рыгора Неакесарыйскага, Успення ў Ганчарах, Верхаспаскага сабора ў Крамлі і інш. У 1672 частка бел. майстроў з Ганчарнай слабады пераведзена ў навастворaную Мяшчанскую слабаду.

Бронная слабада — месца пасялення майстроў па вырабу броні, панцыраў, кальчуг і халоднай зброі ў 16—17 ст. Падпарадкоўвалася Збройнай палаце. Знаходзілася паміж Малой Нікіцкай і Цвярской вуліцамі і паміж Вял. Броннай вул. і Спірыдонаўскім завулкам. У 1570 цар Іван IV Грозны пасяліў тут яшчэ іншаземных майстроў-шабельнікаў, паланёных у час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Сярод іх былі і беларусы. У 1632 налічвала 103 двары. Пазней у слабадзе паселены збройнікі, вывезеныя з Беларусі ў час вайны 1654—67. У выніку гэтага склад насельніцтва слабады да канца 17 ст. змяніўся: тут не засталося ніводнага «бронніка», а жылі пераважна кавалі і збройнікі. Сярод іх бел. майстры: пішчальнікі (Васіль Быхавец, Максім Іваноў і інш.), шабельнікі (Рыгор Іваноў, Іван Анісімаў і інш.), станочнікі (Максім Міхайлаў, Андрэй Трафімаў і інш.). У 1672 частка бел. майстроў пераведзена з Броннай слабады ў навастворaную Мяшчанскую слабаду. Зброя бел. майстроў захоўваецца ў зборы агністрэльнай зброі Крамлёўскай Аружэйнай палаты.



План **Масквы**. Гравюра Т.Макоўскага. Нясвіж. 1611.

С т а р а п а н с к а я  с л а б а д а (Іншаземная слабада) была населена выхадцамі з Рэчы Паспалітай. Знаходзілася ў 17 ст. ў Земляным горадзе каля Варанцова поля, паміж Сырамятнай і Мельніцкай слабодамі (раён сучаснай вул. Обуха, Сырамятніцкага і Мельніцкага завулкаў). Большасць насельніцтва слабады складалі вайскоўцы з Рэчы Паспалітай. У 1638 тут былі 52 двары, і толькі адзін належаў «нямчыну». У 2-й пал. 17 ст. насельніцтва слабады было асімілявана.

П а н с к а я  с л а б а д а існавала ў 17 ст. ў канцы вул. Якіманка каля Крымскага вала, у раёне сучасных Баб'егародскіх і Міронаўскага завулкаў. Мела невял. колькасць двароў (дакладная лічба не захавалася), дзе пражывалі выхадцы з Рэчы Паспалітай. Паводле вопісу 1669, большасць іх належала да афіцэраў маскоўскіх палкоў «іншаземнага» (рэгулярнага) строю. Да канца 17 ст. насельніцтва слабады страціла сваю нац. адметнасць. Памяць пра слабаду захоўвалася ў назве царквы «Мірона, што ў Старых Панех».

М я ш ч а н с к а я  с л а б а д а была месцам кампактнага пражывання беларусаў у 2-й пал. 17—пач. 18 ст. Утворана ў вер. 1672 паводле царскага ўказа на тэр. «дварцовай» Напруднай слабады і Троіцкага падвор'я спецыяльна для бел. рамеснікаў, вывезеных з Беларусі ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1676 у слабадзе было 565 двароў, у 1684 — 679, у 1695 — 787. Слабадой кіравалі асобыя стольнікі, прызначаныя Пасольскім прыказам. Сюды былі пераведзены тыя беларусы, якія, пасяліўшыся у М., мелі свае двары. Бяздворных і некаторых майстроў, якія працавалі пры царскім двары і жылі ў дварцовых і чорных слабодах і сотнях, у Мяшчанскую слабаду не ўзялі. Каля 200 сем'яў беларусаў з-за недахопу зямлі ў слабадзе, жылі ў іншых слабодах. У 1680-я г. беларусы складалі каля 20% насельніцтва Масквы, палова з іх жыла ў Мяшчанскай слабадзе. Паводле перапісу 1676, у М.с. жылі рамеснікі больш як 60 спецыяльнасцей. Каля 36% жыхароў слабады былі пісьменныя, тут працавала школа для дзяцей (трымаў беларус Якаў Якаўлеў) і багадзельня. Адметную ролю слабада адыграла ў станаўленні



рас. тэатра: 26 дзяцей жыхароў слабады ў 1675 паставілі спектакль «Жалосная камедыя», пасля чаго трупа пашырана да 60 чал. і створана спец. артыстычная школа, 20 акцёраў займаліся ў асобнай балетнай школе. У 1676 пастаўлены спектакль «Пра Давыда і Галіяфа» і «Пра Бахуса і Венус». Аднак пасля смерці цара Аляксея Міхайлавіча ў 1676 трупа распушчана. Баярскім «прыгаворам» 23.8.1682 вызначана асобнае становішча Мяшчанскай слабады, паводле якога жыхары яе як іншаземцы атрымалі розныя льготы і прывілеі, што спрыяла пашырэнню гандлёвай дзейнасці мяшчан, 17 з якіх былі прыняты ў Гандлёвую сотню. Мяшчанская слабада знікла пасля пажару 1712.

*Літ.*: Звягинцев Е. Слободы иностранцев в Москве XVII в. // Ист. журнал. 1944. № 2/3; Снегирев В. Московские слободы. М., 1947; Сытин П.В. Откуда произошли названия улиц Москвы. М., 1959; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978; Богоявленский С.К. Научное наследие: О Москве XVII века. М., 1980; Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988.

***Генадзь Прыбытка.***

**Маскевіч** Багуслаў Казімір (1625, в. Сэрвач Навагародскага пав.—4.4.1683), вайсковы і грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст. Сын С.І.*Маскевіча*. Адукацыю атрымаў у Навагародскім калегіуме. У 1643—44 пры двары Б.*Радзівіла*, у 1644 — люблінскага кашталяна Ф.Зэбжыдоўскага. У гэты час перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва. З 1646 на службе ў І.М.Вішнявецкага, у 1646—48 удзельнічаў з ім у бітвах з укр. казакамі. У складзе харугвы Б.Радзівіла ўдзельнічаў у паходзе Я.*Радзівіла* на Палессі, ва ўзяцці Мазыра (10—11.2.1649), Бабруйска (20—22.2. 1649), у *Лоеўскай бітве 1649*. У 1655 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Пасол на соймы 1668, 1673, 1674. З 1668 на службе ў К. і М. Пацаў, у 1673—74 войскі навагародскі. Аўтар 2 дыярыушаў на польскай мове. У адным (ахоплівае падзеі 1643—49) апісаны ваенныя дзеянні Вішнявецкага, М.Патоцкага, М.Каліноўскага, Я.Радзівіла супраць войск Б.Хмяльніцкага на Украіне і Беларусі; шмат партрэтных і пейзажных замалёвак. У другім апісаны паход рас. ваяводы І.А.Хаванскага па Беларусі ў пач. 1660 і разгром яго войск аб'яднанымі сіламі гетманаў П.Я.Сапегі і С.Чарнецкага ў *Палонкаўскай бітве 1660*. Дыярыушы М. даюць аб'ектыўнае ўяўленне пра тагачасныя падзеі і факты ваеннага, паліт. і грамадскага жыцця.

*Тв.*: Pamiętniki Samuela i Bogusława Kazimierza Maskiewiczów. Wrocław, 1961.

*Літ.*: История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 215—216.

**Маскевіч** Самуіл Іванавіч (1580?, в. Сэрвач Навагародскага пав.—1642), вайсковы і грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст. З бел. шляхецкага роду герба «Адравонж». Вызнаваў кальвінізм. Адукацыю атрымаў, відаць, у Навагрудскім калегіуме. У 1601 у складзе харугвы Г.Войны ваяваў са шведамі ў Інфлянтах. У 1605—06 пры двары А.Вішнявецкай у Брагіне. Пасля на вайсковай службе на Падоллі, змагаўся супраць Сандамірскай канфедэрацыі. Як паручнік гусарскай харугвы ўдзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, ва ўзяцці Смаленска, Рослава, бітве пад Клушынам, баях у Маскве. З 1615 служыў у клецкага ардыната Я.А.Радзівіла, сыноў М.К.Радзівіла Сіроткі, польнага гетмана ВКЛ К.*Радзівіла*. У 1617 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ, з 1628 навагародскі гродскі пісар. Пасля стаў прыхільнікам Сапегаў, імі прызначаны навагародскім падваяводам (пасля 1632—38?). Багатыя ваенна-паліт. ўражанні ляглі ў аснову яго дыярыуша (дзённік і мемуары на польскай мове), які ахоплівае падзеі 1594—1621. Апісанне падзей 1594—1604 мае характар кароткіх дзённікавых запісаў, пазнейшага часу — больш разгорнутае і эмацыянальна насычанае. М. імкнуўся аднолькава аб'ектыўна паказаць і сяброў, і ворагаў. Падрабязна апісаў аблогу Смаленска, адзначыў мужнасць абаронцаў горада на чале з ваяводам М.Шэіным. Прааналізаваны дзеянні розных баярскіх груповак у Расіі, іх узаемаадносіны і дзеянні супраць войск Рэчы Паспалітай. Падрабязна апісаны побыт баяр, майстэрства маскоўскіх рамеснікаў, жыццё рас. сялян. М. быў цярпімым у адносінах да іншых канфесій; гіст. падзеі імкнуўся апісаць аб'ектыўна, без паліт. і рэліг. прадузятасці.

*Тв.*: Pamiętniki Samuela i Bogusława Kazimierza Maskiewiczów. Wrocław, 1961; Рус. пер. — Сказания современников о Дмитрии Самозванце. Ч. 5. Записки Маскевича. СПб., 1834.

*Літ.*: История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 212—215.

***Валерый Пазднякоў.***

**Маскоўскае вялікае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Вылучылася з Уладзімірскага вял. княства ў 1260-я—пач. 1270-х г. і з канца 13 ст. заняло ў ім дамінуючае становішча. На працягу 14 ст. актыўную барацьбу за вял. ўладзімірскае княжанне вяло таксама Цвярское княства, у 1350—60-я г. — Суздальскае, але, як правіла, толькі маскоўскія князі насілі тытул вял. князя ўладзімірскага, на што да 1462 трэба было атрымліваць ярлык ханаў *Залатой Арды*. Па ініцыятыве маскоўскіх князёў у 1300 рэзідэнцыя агульнарускага мітрапаліта была перанесена з Кіева ва Уладзімір, а ў 1328 — у Маскву. Асновы паліт. і эканам. магутнасці Масквы закладзены вял. кн. Іванам І Калітой [1325—41], які дамогся ў хана права збору татарскай даніны на Русі. Паслядоўная палітыка Івана Каліты і яго пераемнікаў на пашырэнне тэр. М.в.к. шляхам скупкі і захопу зямель, дынастычных шлюбаў і г.д. абумовіла ператварэнне Масквы ў гал. паліт., эканам. і рэлігійны цэнтр паўн.-ўсх. Русі, асн. асяродак фарміравання велікарускай народнасці. Перамога ў *Кулікоўскай бітве 1380* паклала пачатак вызваленню ад татарскай залежнасці, якое канчаткова дасягнута ў 1480 Іванам ІІІ Васілевічам у выніку «стаянна на Угры». Хуткі рост тэр. М.в.к., паглынанне дробных дзярж. утварэнняў і курс на «збіранне» пад сваёй уладай усіх усх.-слав. зямель выклікалі яго сутыкненне з ВКЛ. З 1330-х г. абедзве дзяржавы змагаліся за ўплыў над *Наўгародскай рэспублікай*, *Пскоўскай рэспублікай* і *Смаленскім княствам*, у 1335 адбыўся першы ўзброены канфлікт паміж імі. *Дагавор 1349* паміж вял. князем маскоўскім Сімяонам Гордым [1340—53] і вял. князем літоўскім Альгердам быў замацаваны серыяй дынастычных шлюбаў. Ноўгарад і Пскоў прызнаваліся падкантрольнымі Маскве. Барацьба Масквы супраць прызнання самастойнай правасл. мітраполіі ВКЛ (1352—63) скончылася яе скасаваннем пасля смерці літоўскага мітрапаліта *Рамана*. Падтрым-



ліваючы саюзнага ВКЛ цвярскога вял. кн. Міхаіла Аляксандравіча, Альгерд здзейсніў 3 паходы на Маскву (гл. *Вайна Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72*).

Пасля смерці Альгерда Масква традыцыйна падтрымлівала літоўскіх князёў, якія выступалі супраць цэнтр. улады ВКЛ, — Андрэя Альгердавіча (канец 1380-х г.), Вітаўта (пач. 1390-х г.), Свідрыгайлу. Вял. князь літоўскі Ягайла аказаў пасіўную падтрымку Ардзе перад Кулікоўскай бітвай, але ў 1384 паміж ім і Дзмітрыем Данскім заключана мірнае пагадненне (відаць, накіраванае супраць Арды). Пасля *Крэўскай уніі 1385* гал. ідэалагічным абгрунтаваннем палітыкі М.в.к. ў дачыненні да ВКЛ абвяшчалася «вызваленне» яе правасл. насельніцтва ад «каталіцкага прыгнёту». Дзейнасць мітрапаліта Кіпрыяна спрыяла змякчэнню супярэчнасцей паміж М.в.к. і ВКЛ. У 1391 заключаны шлюб маскоўскага вял. кн. Васіля I [1389—1425] з дачкой Вітаўта *Соф'яй Вітаўтаўнай*. У 1398 Масква выступіла супраць спробы Вітаўта ўсталяваць кантроль над Ноўгарадам, але па выніках *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08* прызнала захоп ім Смаленскага княства і земель да р. Угра. Заключаны вял. кн. літоўскім Казімірам IV і вял. князем маскоўскім Васілём II Цёмным [1425—62] *дагавор 1449* фактычна спыніў тэр. экспансію ВКЛ на ўсход. Казімір абавязваўся «не вступися» ў Ноўгарад і Пскоў, нават калі тыя будуць «се... давати» Казіміру, а таксама не ўдзельнічаць у магчымых сутыкненнях рускіх феад. рэспублік з Лівонскім ордэнам нават на іх баку. Адносным поспехам Казіміра была адмова Васіля II ад наўгародскіх валасцей, якія традыцыйна «цягнулі» да Літвы, і прызнанне за разанскім вял. кн. Іванам Фёдаравічам права пераходу на службу да Казіміра. Дагавор 1449 зафіксаваў адмову ВКЛ ад прэтэнзій на аб'яднанне ўсіх усх.-слав. зямель, што абумовіла страту незалежнасці ад Масквы Ноўгарада (1471—78) і Цверы (1485) і ўрэшце паражэнне ВКЛ у *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94*, якое суправаджалася стратай вял. тэрыторый. Моцная *Руская цэнтралізаваная дзяржава*, створаная ў выніку поспехаў Івана III, які прыняў тытул «государь всея Руси», пачала адкрыта прэтэндаваць на падуладныя ВКЛ бел. і ўкр. землі, барацьба за якія шмат у чым вызначыла гісторыю Усх. Еўропы на працягу 15—18 ст.

*Літ.*: Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI вв. М.; Л., 1950; Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963; Fennell J.L.I. The emergence of Moscow, 1304—1359. Berkeley; Los Angeles, 1968; Зимин А.А. Витязь на распутье: Феодальная война в России XV в. М., 1991; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001.

*Алесь Белы.*

**масонства**, франкмасонства (ад франц. franc maçon, англ. free mason вольны муляр), вучэнне і практыка найбольшага міжнароднага тайнага таварыства элітарнага тыпу, якое аб'ядноўвае людзей розных нацыянальнасцей і веравызнанняў пад эгідай пошуку «ісцінных шляхоў духоўнага абнаўлення грамадства». Гіст. карані М. як арганізацыі — у брацтвах вольных муляраў (будаўнічых саюзах), якія ўзніклі ў Германіі ў 12—13 ст. Вызначэнне «вольны» характарызавала прафесіянальную асаблівасць майстроў і азначала апрацоўшчыка «вольных» парод каменю (мармур, вапняк). Таварыствы вольных муляраў (цэхі, ложы) пашырыліся ў Англіі, Італіі, Францыі. У канцы 16 ст. англійскія брацтвы сталі прымаць у свае рады «пабочных муляраў» — заможных адукаваных людзей, якія садзейнічалі адукацыі і маральнаму выхаванню муляраў. Уласна будаўнічыя таварыствы ў пач. 18 ст. зніклі, але англійскія «пабочныя муляры», захаваўшы знешнюю атрыбутыку дзейнасці таварыстваў, пачалі выкарыстоўваць ложы для абмеркавання праблем развіцця асобы і грамадства ў цэлым. У 1717 чатыры англійскія ложы ўтварылі Вял. англійскую ложу. Па яе даручэнні член таварыства, прэсвітэрыянскі пастар, доктар багасloўя Дж.Андэрсан распрацаваў у 1721 «Кнігу канстытуцый» — першы сістэматызаваны зборнік прынцыпаў М. Паводле іх, масон не павінен быць «ні бяздумным атэістам, ні безрэлігійным вальнадумцам», падтрымліваць афіцыйныя ўлады і не прымаць удзелу ў паліт. рухах. Былі замацаваны асн. іерархічныя ступені масонскіх лож — вучань, падмайстар, майстар, уведзена асобае званне — наглядчык (сачыў за выкананнем рытуалаў). Кожнага члена ложы называлі «братам». У ложы па рэкамендацыі іх членаў прымалі асоб, якім споўнілася не менш як 25 гадоў. Прыём новага «брата» патрабаваў згоды ўсіх прысутных. Т. зв. вялікую ложу складалі майстры і наглядчыкі ўсіх існуючых таварыстваў краіны, узначальваў яе вял. майстар (звычайна прадстаўнік заможных слаёў грамадства). Рытуальныя цырымоніі ў ложах адбываліся з выкарыстаннем традыц. мулярскіх прылад (цыркуль, навугольнік, малаток і інш.) і адзення (фартух, пальчаткі, капялюш).

У ВКЛ М. пранікла ў канцы 18 ст. як залежнае ад польскага. Калі прыблізна ў 1774 частка польскіх лож апынулася пад моцным уплывам замежнага М., некаторыя іх члены заснавалі таварыства «Верных сяброў» (з 1775 — «Рыцараў святога Карла»). Яно падзялілася на 2 камандорствы ў Варшаве і Вільні (віленскі камандор — соймавы пасол, староста беразніцкі М.Жынеў). У 1778 Жынеў перайменаваў віленскае камандорства ў масонскую ложу «Добры пастыр». У 1780 яна падзялілася на ложы «Добры пастыр» (кіраўнік — палкоўнік А.Годэн), «Руплівы літвін» (Жынеў) і «Храм мудрасці» (менскі староста Д.Пшаздзецкі). У 1781 у Вільні існавалі ложы «Дасканалае адзінства», «Руплівы літвін», «Добры пастыр», «Храм мудрасці» і «Дасканалая вернасць» (членамі апошняй былі толькі жанчыны). Ложа «Дасканалае адзінства» была арганізавана І.Патоцкім і мела статус «Вялікая правінцыяльная літоўская ложа», што давала ёй права на заснаванне новых лож. У 1781 яна заснавала ў Гародні ложу «Шчаслівае вызваленне», якая вяла сваю дзейнасць выключна на франц. мове. Яе майстрам быў Л.Гужакоўскі, пасля — А.Беку. У 1784 пад той жа назвай узнікла ложа ў Нясвіжы. У час *паўстання 1794* дзейнасць гэтых лож прыпынілася і пачала аднаўляцца толькі пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Załęski S. O masonii w Polsce od roku 1738 do 1822 na źródłach wyłącznie masońskich. Cz. 1—2. 2 wyd. Kraków, 19 Malachowski-Lempicki S. W mularstwo na ziemiach dawnego Wiel Księstwa Litewskiego, 1776—1822

i materiały. Wilno, 1930; Дабранскі С.Ф. Масонскія лёжы ў Літве // Спадчына. 1997. № 1; Яго ж. Нарысы з гісторыі масонства ў Літве // Там жа. № 3.

*Мікалай Рыбко.*

**маставое**, плата за праезд цераз мост, грэблю ў ВКЛ. Спаганялася паводле даўняга звычаю тымі, хто будаваў сваім коштам мост. Гэта права было замацавана Статутамі ВКЛ, якія адначасова ўскладалі на ўладальнікаў мастоў і грэбель абавязак сачыць за іх станам, рамантаваць. Калі ў выніку дрэннага стану моста ці грэблі праезджы меў страту, яна спаганялася з уладальніка. Увядзенне новых ці дадатковых пабораў за карыстанне мастамі забаранялася.

**мастаўнічы**, урад (пасада) у ВКЛ у 16—18 ст. Павятовы М. ў 16 ст. павінен быў сачыць за станам мастоў і пераправаў, потым намінальная пасада. У 17—18 ст. існаваў дыгнітарскі ўрад М. ВКЛ.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Масты** (цяпер в. Правыя Масты Мастоўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Гарадзенскім пав., на р. Нёман. Упершыню ўпамінаецца пад 1486 як цэнтр воласці. Паводле рэвізіі 1561 складаліся з 9 вуліц па абодвух берагах Нёмана, мелі прыстань і паром. З 1589 валасны цэнтр *Гарадзенскай эканоміі*. Каралеўскімі граматамі 1601, 1633, 1653 і 1677 атрымалі некаторыя правы паводле магдэбургскага права. З 1633 згодна з каралеўскай граматай у М. праводзіліся штотыднёвыя таргі і 2 кірмашы ў год. Значнае месца ў гандлі займаў лес, які сплаўлялі па Нёмане ў Гародню, Коўна, Каралявец. У 1673 у мястэчку пражывала 109 сем'яў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. Населены пункт М. (цяпер горад, цэнтр Мастоўскага р-на, Рэспубліка Беларусь) узнік у пач. 20 ст. на месцы в. Зэльва.

*Літ.*: Мараш Я.Н., Ковкель И.И., Себастьян А.С. Мосты: Ист.-экон. очерк. Мн., 1986.

*Іван Коўкель.*

**Масціцкі** (Mościcki) Генрык Станіслаў (30.10.1881, г. Цеханавец, Польшча—13.12.1952), гісторык. Чл.-кар. Польскай АН (1945), д-р габілітаваны (1921), праф. тытулярны (1936). Скончыў Львоўскі ун-т (1907). У 1909—26 выкладаў у Таварыстве навук. курсаў (з 1916 Вольны польскі ун-т), з 1916 — у Школе паліт. навук (пазней Акадэмія паліт. навук), у 1917 працаваў у Дзярж. дэпартаменце, у 1918—34 — у Міністэрстве замежных спраў. У 1920 намеснік прафесара новай гісторыі Польшчы і Літвы Віленскага ун-та. У 1920—39 выкладаў у Варшаўскім ун-це, з 1945 — у Кракаўскім ун-це. Асн. працы прысвечаны гісторыі Беларусі і Літвы 19 ст., рас.-польскім адносінам 18—19 ст., польскаму вызваленчаму руху. Выдаў шмат гіст. крыніц: «Прамяністыя—філаматы—філарэты» (3-е выд., 1928), «Унія Польшчы з Літвой: Дакументы і ўспаміны» (1919), «Паўстанне 1831 г. ў Літве: Успаміны ўдзельнікаў» (1931), мемуары С.Мараўскага, Г.Пузынінай, С.Шумскага, Ю.Выбіцкага.

*Тв.*: Sprawa włościańska na Litwie w pierwszej ćwierci XIX stulecia. Warszawa; Kraków, 1908; Wilno i Warszawa w «Dziadach» Mickiewicza. Warszawa; Kraków, 1908; Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. T. 1—2. Wilno, 1910—14; Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; Pod znakiem Orła i Pogoni: Szkice historyczne. 2 wyd. Lwów; Warzsawa, 1923; Pod berłem carów. Warszawa, 1924; Sceny z życia Tadeusza Kościuszki: Wolność—Równość—Niepodległość. Kraków, 1948 (з Е.Р.Бянскім); Szymon Konarski. Warszawa, 1949.

*Літ.*: Dutkiewicz J. Henryk Mościcki jako uczeń Askenazego // Przegląd historyczny. 1958. Z. 1.

**Матусас** (Matusas) Ёнас (26.10.1899, в. Вайгувішкі Шакайскай вол., Літва—29.6.1962), літоўскі гісторык. Д-р гісторыі (1930). Скончыў Вілкавішскую духоўную семінарыю, з 1924 святар. У 1924—30 вучыўся ў Літоўскім ун-це. З 1940 дацэнт Каўнаскага ун-та, выкладаў гісторыю Літвы і літ. культуры. У 1945—46 у Германіі, з 1948 у ЗША. Аўтар прац пра Вількамірскую бітву 1435, вял. кн. Свідрыгайлу, А.Каяловіча, па гісторыі прускіх зямель.

*Тв.*: Ukmerges mušis (1435—1935). Kaunas, 1935; Švitrigaila Lietuvos didysis kunigaikštis. Kaunas, 1938 (2 leid. Vilnius, 1991); Senoves Prusu žemes nukariavimas. Kaunas, 1940; Vidurinių amžių istorija: (su Lietuva). Regensburgas, 1946; Lietuvių kalba Gardine, Svyriuose ir Tukume // Aidai. 1961. № 3; Dailidžių Supraslio kultūra lietuviškumo ir rusiškumo perspektyvoje // Там жа. 1962. № 9.

*Літ.*: Jonas Matusas: Lit. rodiklė / Sudarė L.Vanagaitė. Vilnius, 1999.

*Валерый Пазднякоў.*

**Матушакайтэ** (Matušakaitė) Марыя (н. 9.3.1924), літоўскі архітэктар, мастацтвазнаўца. Канд. мастацтвазнаўства (1970). У 1941—48 вучылася ў Каўнаскім ун-це. У 1948—53 працавала архітэктарам, у 1953—59 старшы архітэктар у Дзярж. праектным ін-це пры Савеце Міністраў Літ.ССР, у 1959—61 працавала ў Праектным ін-це гар. і сельскага будаўніцтва,у 1961—63 дырэктар Вільнюскага дома моды, у 1963—65 у Праектным ін-це гар. будаўніцтва. У 1965—93 выкладала ў Каўнаскім ун-це (з 1974 прафесар). Даследуе драўляную архітэктуру, партрэтны жывапіс, скульптуру, разьбярства, гісторыю адзення ВКЛ 16—18 ст. Нац. прэмія Літвы (1998). Аўтар кніг: «Літоўскі партрэт XVI—XVIII ст.» («Portretas XVI—XVIII a. Lietuvoje», Вільнюс, 1984), «Літоўскія працэсійныя алтары» («Procesijų altorėliai Lietuvoje», Вільнюс, 1998), «Старажытная драўляная скульптура і дэкаратыўная разьба па дрэве ў Літве» («Senoji medžio skulptūra ir dekoratyvinė drožyba Lietuvoje», Каўнас, 1999), «Літоўскае адзенне XVI—XVIII ст.» («Apranga XVI—XVIII a. Lietuvoje», Вільнюс, 2003).

*Тв.*: Литовская надгробная скульптура эпохи Ренессанса и раннего барокко // Искусство Прибалтики. Таллин, 1981; U zródeł portretu litewskiego // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1992. T. 5; Senieji lietuvos kunigaikščių portretai. Kaunas, 1997; Działalność artystyczna Tomasza Podhayskiego na Litwie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Матушэвіч** Марцін (11.11.1714, в. Ельна Берасцейскага пав.—21.11.1773), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісьменнік-мемуарыст, перакладчык. Вучыўся ў парафіяльнай школе ў Камянцы, потым у езуітаў у Дарагічыне, Берасці і Варшаве. Берасцейскі гродскі пісар з 1738, падстолі з 1740, пісар з 1752. Як і яго бацька, належаў да кліентэлы Сапегаў. У час бескаралеўя 1733—36 далучыўся да канфедэрацыі ў абарону Станіслава Ляшчынскага. У пач. 1740-х г. усталяваў кантакты з падканцлерам ВКЛ М.Чартарыйскім, у сярэдзіне 1740-х г. разарваў з Сапегамі і перайшоў у шэрагі кліентаў Чартарыйскіх. З пераходам Чартарыйскіх у апазіцыю да каралеўскага двара ў 1750—52 М. далучыўся да кліентаў дворскіх саюзнікаў у ВКЛ Радзівілаў. Адначасо-

ва пачалася яго судовая справа з Чартарыйскімі, якіх ён абвінавацїў у распусканні плётак пра яго нібыта нешляхецкае паходжанне. Гэтая судовая справа стала адной з асноўных у паліт. барацьбе паміж Радзівіламі і Чартарыйскімі ў 1755—56. У студз. 1757 М. заключыў з Чартарыйскім кампрамісвае пагадненне аб прыпыненні ўсіх судовых спраў. У 1756 усталяваў кантакт з лідэрам прафранцузскай партыі ў Рэчы Паспалітай, вял. каронным гетманам Я.К.Браніцкім і французскім паслом Дзюрандам. Далей працягваў супрацоўнічаць і з Радзівіламі, і з Браніцкім. У час бескаралеўя 1763—64 перайшоў на бок Чартарыйскіх і далучыўся да генеральнай канфедэрацыі ВКЛ. Хутка вярнуўся да сваіх ранейшых пратэктараў і далучыўся да *Радамскай канфедэрацыі* (у 1767 яе генеральны сакратар). З 1768 берасцейскі кашталян. Прыхільна ставіўся да *Барскай канфедэрацыі*, але ўдзелу ў ёй не прыняў. Вядомы як аўтар мемуараў «Дыярыуш майго жыцця, колькі магу памятаць». У іх паказаны ўнутрыпаліт. падзеі ў ВКЛ, норавы і звычаі шляхты (у першую чаргу Берасцейскага пав.), шляхецкая ментальнасць. Пераклаў у 1752—60 на польскую мову «Сатыры» Гарацыя (выдадзены ў 1784 у Вільні), далучыў да іх 3 свае вершаваныя «Дадаткі». Пісаў вершы на польскай і лацінскай мовах.

*Тв.*: Diariusz życia mego. T. 1—2. Warszawa, 1986; Бел. пер. — Дыярыюш жыцьця маяго... // Спадчына. 1996. № 5; 1997. № 1—2.

*Літ.*: Królikowski B. Marcina Matuszewicza o czasach saskich świadectwo // Kwartalnik historyczny. 1968. Z. 2; Zielińska Z. Mechanizm sejmikowy i klientela radziwiłłowska za Sasów // Przegląd historyczny. 1971. Z. 3; Бирало А. Философская и образовательная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII вв. Мн., 1971; Его ж. Философские проблемы в науке эпохи Просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979; Мальдзіс А. Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі. Мн, 2001; Мацук А. Дыярыюш М.Матушэвіча і ўздзеянне ідэй Асветніцтва на шляхту ВКЛ // Асветніцтва і гуманістычныя ідэі ў рэтраспектыве часу. Мн., 2002.

***Андрэй Мацук.***

**Мацвей Іванавіч** Дзесяты (?, г. Таропец—пасля 1507), кнігапісец. Быў 10-м сынам у шляхецкай сям'і, адсюль мянушка. Усе браты і сёстры прынялі манаства, сярод іх ігумен Полацкага Прадцечанскага манастыра Яўфімій, але М.І. застаўся свецкай асобай. Склаў і перапісаў т.зв. «Дзесятаглаў» — першы збор біблейскіх кніг у ВКЛ, які ўключаў кнігі Старога і Новага запаветаў (акрамя Пяцікніжжа і гістарычных) і дадатак — слоўнік незразумелых слоў. Праца над кнігай была пачата ў 1502 у Вільні і скончана ў 1507 у Супрасльскім Дабравешчанскім манастыры. Праца вялася, відаць, па заказу царк. улад як адказ на стварэнне ў Расіі першага поўнага збору біблейскіх кніг (Генадзіеўская Біблія), але дакладны заказчык невядомы. «Дзесяціглаў» — шэдэўр бел. сярэдневяковага кнігапісання, адна з найб. аздобленых бел. рукапісных кніг. Мае вял. фармат, упрыгожана 1 шматфігурнай мініяцюрай, 18 застаўкамі ў неавізантыйскім стылі, 250 буйнымі шматколернымі ініцыяламі (у кампазіцыі ўключаны выявы жывёл і птушак) і некалькімі дзесяткамі тонкіх кінаварных ініцыялаў. Зборнік быў укладам М.І. ў Супрасльскі манастыр, дзе захоўваўся да 19 ст., цяпер зберагаецца ў б-цы РАН у С.-Пецярбургу.

*Літ.*: Алексеев А.А., Лихачева О.П. Супрасльский сборник 1507 г. // Материалы и сообщения по фондам отдела рукописной и редкой книги БАН СССР. Л., 1978; Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Мн., 1993.

**Мацей з Мехава** (Maciej z Miechowa, Мяхоўскі, Мехавіта, сапр. Мацей Карпіга; каля 1457, г. Мехаў каля Кракава—8.9.1523), польскі гісторык, географ, медык, астролаг. З сям'і мешчаніна. З 1474 вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, у 1476 стаў бакалаўрам, у 1479 — магістрам вольных мастацтваў. З 1483 працягваў вучобу ў Італіі, дзе ў 1486 або 1487 атрымаў ступень доктара медыцыны. З 1500 праф. медыцыны Кракаўскай акадэміі, да 1519 восем разоў выбіраўся яе рэктарам. У 1515—18 напісаў «Хроніку палякаў» («Chronica polonorum»), якая выдадзена ў 1519. Але ўвесь яе тыраж паводле загаду каронанага канцлера Я.Ласкага быў канфіскаваны, некаторыя старонкі заменены на адрэдагаваныя самім канцлерам. Новае выданне хронікі з'явілася ў 1521. Гал. яе крыніцай пры апісанні падзей да 1480 была «Гісторыя» Я.*Длугаша*, да якога М. з М. ставіўся з вял. павагай. Апісанне сучасных яму падзей



**Мацей з Мехава**. Хроніка палякаў. Кракаў. 1519. Тытульны ліст.

(1481—1506) М. з М. рабіў на падставе ўласных нататак, якія вёў прыкладна з 1499, вусных рэляцый і часткова рукапісных і друкаваных крыніц. Вялізная колькасць дат і фактаў, асабліва з 1480, надае ёй выключную вартасць. Хроніка М. з М. — першая пасля твора В.Кадлубака друкаваная гісторыя Польшчы. Яна прызначалася для студэнтаў і шырокай публікі, таму ў ёй няма спасылак на папярэдніх аўтараў. У хроніцы М. з М. пачаў дыскусію ў друку пра паходжанне слав. плямён і народаў. Вынікам даследаванняў стала яго гіпотэза пра аўтахтоннасць славян, аб'яднаная з тэорыяй Длугаша пра пачатковае іх жыхарства ў Панoніі. М. з М. апісаў звычай праўядзення набажэнства на стараж.-слав. мове паводле ўсх. абрадаў у касцёле Св. Крыжа ў Кракаве. У адрозненне ад Длугаша, якога цікавіла пераважна нямецка-крыжацкая праблематыка, М. з М. скіраваў свой погляд на Усход — Русь, ВКЛ, татараў, Турцыю. Шмат месца адвёў апісанню падзей у ВКЛ і адлюстраваў усе яго значныя паліт. акцыі. Крытыкаваў эканам. супярэчнасці ў Літве, якія прыводзілі да рэзкага падзелу грамадства на 2 слаі — вельмі бедных мас сялянства і агорнутых раскошай магнатаў. Шмат гіст. фактаў і ў творы М. з М. «Трактат пра дзве Сарматыі» («Tractatus de duabus Sarmatiis», Кра-



каў, 1517), які прынёс аўтару агульнаеўрап. вядомасць (у 16 ст. кніга выдавалася 18 разоў). Ён разбурыў тагачасныя стэрэатыпы пра Усх. Еўропу (існаванне там Гіпербарэйскіх і Рыфейскіх гор, народа гіпербарэйцаў і інш.), але, на жаль, скарыстаў і неправераныя звесткі, атрыманыя ад палонных маскавітаў, купцоў, паслоў, паліт. эмігрантаў. Для зах.-еўрап. чытача трактат стаў асн. крыніцай інфармацыі пра геаграфію, веравызнанні, паліт. і грамадскія адносіны ў ВКЛ, Маскоўскай дзяржаве і інш. землях на Усходзе.

*Тв.*: Пол. пер. — Opus Sarmacji azjatyckiej i europejskiej. Wrocław etc., 1972; Рус. пер. — Трактат о двух Сарматиях. М.; Л., 1936.

*Літ.*: Borzemski A. Kronika Miechowity: Rozbiór krytyczny. Kraków, 1891; Maciej z Miechowa, 1457—1523: Historyk, geograf, lekarz, organizator nauki. Wrocław, 1960; Лимонов Ю.А. Культурные связи России с европейскими странами в XV—XVII вв. Л., 1978. С. 97—148; Семянчук А. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000.

*Альбіна Семянчук.*

**Мацюша Фёдаравіч**, камандзір атрада ўкраінскіх казакоў, якія ў канцы 16 ст. зрабілі першы паход у Беларусь. У лют. 1590 каля 500 запарожскіх казакоў на чале з М.Ф. напалі на Быхаў, пасля на Магілёў. Як паведамляе Баркулабаўскі летапіс, казакі на чале з М.Ф. і Голым «аж до Минску приставство по волостях брали, а кривды, шкоды не чинилы, толко жонок охочих, тых намовляли и заклинали, абы з ними на Низ ишли, и взяли з собою жонок и девок двесте поголов».

**Мацёвіцкая бітва 1794**, бітва паміж паўстанцамі і расійскім войскам у час *паўстання 1794*. Адбылася 10.10.1794 каля в. Мацёвіцы недалёка ад Варшавы. Пасля *Крупчыцкага бою 1794* і паражэння ад войск А.В.Суворава каля в. Цярэспаль 19.9.1794 А.Т.Б.Касцюшка сабраў рэшткі дывізіі К.Серакоўскага, 2 палкі пяхоты, кавалерыйскую брыгаду, уланаў, 2 эскадроны кароннай гвардыі і столькі ж шляхецкай конніцы з-пад Берасця (разам 5600 салдат і афіцэраў пры 21 гармаце). 9 кастр. войска Касцюшкі перакрыла дарогу корпусу І.Я.Ферзена, які рухаўся насустрач Сувораву. На досвітку 10 кастр. Ферзен пачаў наступленне. Яго корпус налічваў каля 20 тыс. салдат і афіцэраў і сотню гармат. Жорсткая бітва скончылася паражэннем паўстанцаў, цяжка паранены Касцюшка быў узяты ў палон. Гэта адмоўна паўплывала на ўвесь ход паўстання і прадвызначыла яго паражэнне.

*Язэп Юхо.*

**мацярызна**, у ВКЛ у 15—18 ст. назва спадчыны па мацярынскай лініі, якую паводле Статутаў ВКЛ браты павінны былі дзяліць пароўну з сёстрамі.

**медаль** (ад франц. medaille шчыт, круг з лепкай), 1) круглы ці авальны знак з двухбаковай ці аднабаковай выявай, зроблены ў гонар асобы або падзеі, памерамі 20—80 мм. З'явіўся ў 2-й пал. 14 ст.—пач. 15 ст. ў Італіі. Выраблялі тэхнікай ліцця, на мяжы 15—16 ст. паявіўся біты М., зрэдку выкарыстоўвалася тэхніка гравіроўкі і чаканкі. Звычайна на аверсе М. змешчана партрэтная выява, на рэверсе — фігурная кампазіцыя, сюжэтная, алегарычная ці геральдычная. Традыцыйныя матэрыялы, з якіх выраблялі М., — серабро, золата, волава. Звычайна на М. пазначана імя медальера або яго манаграма.

Упершыню асобы і падзеі, звязаныя з Беларуссю, з'явіліся на М. у 16 ст. Невядомы італьянскі майстар у 1520 зрабіў М. у гонар нараджэння будучага караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. Некалькі М. выраблена ў гонар Жыгімонта I Старога (майстар Г.Шварц, г. Гданьск, 1527). У 1532 італьянец Я.М.Муска Падавана вырабіў у Кракаве серыю М. з выявамі Жыгімонта I, яго жонкі Боны Сфорца, сына Жыгімонта Аўгуста, дачкі Ізабелы, а ў 1546 — М. з партрэтам Боны. Аўтар М., прысвечанага ўступленню на трон Жыгімонта Аўгуста (1548), — італьянскі майстар Д.Венетус. З сярэдзіны 16 ст. пачаўся сталы выраб у ВКЛ і Рэчы Паспалітай М., прысвечаных каралям польскім і вял. князям літоўскім, іх абранню на трон, каранацыі і інш. З сярэдзіны 16 ст. М. выраблялі на Віленскім манетным двары. Некалькі М. выраблена з нагоды сканчэння Інфлянцкай вайны 1558—82 і вызвалення ў 1579 Полацка. Падзеям вайны з Расіяй 1609—18, заняццю ў 1611 Смаленска прысвечаны М. віленскіх майстроў Г.Келя і манаграміста «HD». Самым значным віленскім медальерам у пач. 17 ст. быў Г.Трыльнер. Ён зрабіў М., прысвечаныя ўзяццю Смаленска (1611) і яго абароне (1641), у гонар караля Уладзіслава IV, Радзівілаў. Медальер І.Энгельгарт выканаў М. у гонар А.Валовіча з яго партрэтам і відам Вільні (1626), Уладзіслава IV. З сярэдзіны 16 ст. па заказе Радзівілаў пачалі вырабляцца М. ў гонар прадстаўнікоў гэтага роду. 1580-мі г. датуецца М. вял. маршалка А.Радзівіла. У 17 ст. М. ў гонар Радзівілаў выраблялі Трыльнер, гданьскія майстры С.Дадлер, І.Гёгн-малодшы. Шмат М. было выбіта ў Германіі, Швецыі і Расіі на падзеі Паўн. вайны 1700—21 (узяцце шведамі Гародні ў 1706, перамога пад Галоўчынам у 1708, перамога расіян пад Лясной у 1708). З пач. 18 ст. стала пашыранай практыка вырабу М. і жэтонаў у гонар святых і рэліг. падзей (каранацыя цудатворных абразоў Жыровіцкага ў 1730, Бялыніцкага ў 1761). У час панавання Станіслава Аўгуста Панятоўскага М. выбівалі ў гонар важных дзярж. падзей: грашовай рэформы (1766), надання паліт. правоў дысідэнтам (1768), утварэння Адукацыйнай камісіі (1774), пабудовы Агінскага канала (1786), прыняцця Канстытуцыі 3 мая 1791 і інш. Шмат М. выканаў на Варшаўскім манетным двары І.Ф.Гольцгаўзер, у т.л. ў гонар гісторыка А.Нарушэвіча (1771). У 1786 Гольцгаўзер вырабіў першыя М. на сучаснай тэр. Беларусі: у Слоніме па заказе М.К.Агінскага выпушчаны аднабаковы М. з яго партрэтам, каранацыйны М. прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II і М. на памяць пра прысягу каралю саслоўяў у Кёнігсбергу. Некалькі М. было выбіта ў Прусіі, Аўстрыі і Расіі з прычыны падзелаў Рэчы Паспалітай 1772—95.

2) Узнагародны металічны знак з вушкам для нашэння на стужцы (ланцугу), на грудзях (ці ў пятліцы) або на шыі, звычайна круглы, зрэдку авальны ці шматвугольны. У Рас. імперыі масавыя ўзнагароджанні М. («портретами», «монетами») упершыню ўведзены Пятром I у час Паўн. вайны. Першы ўзнагародны М., звязаны з гісторыяй Беларусі, — «За Левенгаўпцкую баталію» (1708, за перамогу пад в. Лясная). Узнагародныя М. Рэчы Паспалітай: «Bene merentibus» («Вельмі заслужаным», 1738), «Merentibus» («Заслужаным»,




Узнагародныя **медалі**: 1 — Bene merentibus (1738); 2 — «За службу на працягу 18 гадоў у адным корпусе» (1765); 3 — Pro fide, rege et lege (пасля 1765); 4 — Signatum hoc memori pectore minis habe (пасля 1765); 5 — Solerti (пасля 1765); 6–7 — Merentibus (1766); 8 — Diligentiae (1767); 9 — Equiti dextero (1778).

1766), «За службу на працягу 18 гадоў» (1765), «Pro fide, rege et lege» («За веру, караля і закон»), «Praemiando incitat» («Узнагароджваючы заахвочвае»), «Solerti» («Умеламу»), «Signatum Hoc Memori Pectore Munus Habe» («Май гэты пазначаны дарунак на грудзях як памяць», усе пасля 1765), «Diligentiae» («Стараннасці», 1767), «Collegium publicae institutioni» («Грамадства грамадскай установе», 2 ступені, пасля 1773), «Equiti dextero» («Спрытнаму вершніку», 1778), «Virtuti civilii» («Грамадскай цноце», 1792). Насілі М. на шыі на стужцы. Зроблены яны з золата, серабра, медзі, што адпавядала ступеням.

*Валерый Пазднякоў,*
*Іван Сінчук* **(узнагародныя М.).**

**Меднікі**, горад у Жамойці, гл. *Варні.*

**Медніцкая бітва 1320.** Адбылася 27 ліп. паміж літ. (жамойцкім) і тэўтонскімі войскамі ў Медніцкай вол. Жамойці. Маршал Тэўтонскага ордэна Генрых фон Плоцк з 40 рыцарамі, а таксама коннікамі з Самбіі і Клайпеды (Мемеля) уварваўся ў Медніцкую вол. Калі пярэднія палкі пачалі спусташаць воласць, жамойты, якія загадзя падрыхтаваліся да бітвы, нечакана напалі на асн. сілы Тэўтонскага ордэна. У бязлітаснай барацьбе загінуў Генрых фон Плоцк, 29 яго рыцараў і каля 200 інш. вояроў; некаторым удалося ўратавацца ўцёкамі. У палон быў узяты фогт Самбіі Герхард Рудэ, якога літоўцы потым спалілі як ахвяру багам — у даспехах, на баявым кані. Перамога літоўцаў значна аслабіла ваенны націск Тэўтонскага ордэна на Жамойць і дазволіла Літве ў 1320-я г. ўзяць ваенную ініцыятыву ў свае рукі. Мяркуецца, што М.б. магла знайсці адлюстраванне ў легендарнай частцы літ. летапісаў пра Акмянскую бітву.

*Томас Баранаўскас.*

**Медніцкі замак**, самы вялікі замак-кастэль у ВКЛ. Знаходзіўся ў мяст. Меднікі Віленскага пав. (цяпер Мядзінінкай у Вільнюскім р-не, Літоўская Рэспубліка). Найб. пашыранае датаванне замка — 1-я пал. 14 ст., полюсныя версіі — канец 13 ст. (С.Абрамаўскас, Ё.Глямжа) і пасля 1380 (А.Жалнерус). Узведзены на штучным насыпе пасярод вільготнага лугу. У паўн. частцы лугу ў культурным слаі выяўлены рэшткі шчыльнай драўлянай забудовы вакольнага горада. Плошча дзядзінца М.з. 1,85 га, разам з абарончымі ровам (глыбінёй 6—7 м) і валамі плошча фартыфікацыйнага комплексу складае 6,5 га. Даўжыня зах. муру 147,9 м, паўночнага — 128,7 м, усходняга — 161,2 м, паўднёвага — 127,7 м. Сцены мелі вышыню 14—15 м, таўшчыню ў ніжняй частцы 1,9 м. На вышыні 11 м знаходзілася баявая галерэя, налічвалася 280 байніц. У мурах былі гатычныя спічастыя праёмы: у паўн. і паўд. мурах зроблены т. зв. верхнія брамы, паднятыя над зямлёй на вышыню прыкладна 5 м. Трапіць праз іх у замак можна было толькі з дапамогай адкідных мастоў. Ва ўсх. і зах. мурах знаходзіліся ніжнія (на ўзроўні паверхні зямлі) брамы. У паўн.-ўсх. вугле М.з. ўзведзена вежа-данжон,

дасягала вышыні 30 м, у плане 14,2 х 15,4 м, выступае за лінію муроў, таўшчыня сцен 2,5—3 м. Мела 5 ярусаў, з якіх 3 верхнія былі жылыя. Іншыя 3 вежы пабудаваны пасярэдзіне зах., усх. і паўд. муроў і абаранялі ўваходы ў замак. Вял. колькасць уваходаў, відаць, звязана з функцыяй М.з. як «фолькс-бурга» — замка, куды падчас варожых нападаў збягалася навакольнае насельніцтва. Мяркуецца, што вежы, акрамя паўднёвай, узводзіліся адначасова з мурамі замка. Лінію муроў атачаў роў і 2 земляныя валы. Асн. будаўнічы матэрыял М.з. — палявыя валуны на вапнава-пясчанай рошчыне. Завяршэнне муроў, вуглы вежаў, аркі дзвярных і аконных праёмаў, байніцы зроблены з цэглы, пакладзенай у тэхніцы балтыйскай муроўкі. У дэкаратыўных мэтах на сценах зроблены цагляныя абламовачныя паясы. На дзядзінцы знаходзіліся драўляныя жыллёвыя і гаспадарчыя будынкі. У данжоне М.з. выяўлены фрагменты сценапісу.

Меднікі належалі да ўладанняў вял. кн. Альгерда, тут любіла бываць яго жонка цвярская княжна Ульяна. М.з. зафіксаваны ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» апошняй чвэрці 14 ст. Быў аб'ектам нападаў нямецкіх рыцараў. У 1385 вял. магістр К.Ц. фон Ротэнштайн дэманстратыўна наладзіў пад мурамі замка рыцарскі турнір, але пра ўзяцце замка не паведамляецца; у 1402 нямецкіх саюзнікаў навёў на М.з. Свідрыгайла. У той год, відаць, былі спалены драўляныя ўмацаванні замка і вакольны горад. У 15—сярэдзіне 16 ст. ў М.з. знаходзілася рэзідэнцыя вялікакняжацкага намесніка. М.з. быў любімым месцам побыту вял. кн. Казіміра. У 1517 М.з. прыгаданы С.Герберштэйнам як пакінуты. У 17 ст. муры замка выкарыстоўваліся як агароджа для сядзібы і сада. У 1-ю сусветную вайну частка зах. мура разабрана нямецкімі салдатамі. Археалагічныя і архітэктурныя даследаванні вядуцца з 1955. У канцы 1960-х г. праведзена кансервацыя руін. З 1993 вядзецца рэканструкцыя вежы-данжона.

*Літ.*: Абрамаускас С. К вопросу генезиса крепостных сооружений типа кастель в Литве: (на примере замка Мединининкай) // Научн. тр. высших учебных заведений ЛитССР. Строительство и архитектура. 1963. № 1; Jurginis J. Medininkų pilis // Lietuvos pilys. Vilnius, 1971; Baršauskas J., Levandauskas V. Medininkų pilis // Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1988. T. 1; Glemža J. Medininkai castle // Castella Maris Baltici. Vilnius, 2004. T. 6.

***Алег Дзярновіч.***



**Медніцкі замак**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.



**Медніцкі замак**.

**мезлева**, дзяржаўны натуральны падатак у Літве і паўд.-зах. Беларусі ў 15—16 ст., мясцовая разнавіднасць *стацыі*. Збіралася ў выглядзе мясных прадуктаў (свініна, ялавічына, птушка) на карысць вял. князя ВКЛ у час яго прыездаў у воласці або адвозілася ў Вільню на вял. святы (Каляды, Вялікдзень). Накладалася на воласць у цэлым, пры заставе дзярж. маёнткаў збор М. пераходзіў у рукі дзяржаўцаў. Уставай 1529 пераведзена на грошы.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 113—121.

***Валерый Пазднякоў.***

**Мейлус** (Meilus) Элмантас (н. 20. 11.1954), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1993). Скончыў Вільнюскі ун-т. З 1981 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы, старшы навук. супрацоўнік. Даследуе гісторыю гарадоў і мястэчак ВКЛ 17—18 ст., гісторыю Вільні 17 ст. Аўтар кнігі «Мястэчкі Жамойцкага княства 2-й паловы XVII—XVIII ст.: (Развіццё, жыхары, рамяство, гандаль)» («Žemaitijos kunigaikštystės miesteliai XVII amžiaus II pusėje—XVIII amžiuje: (Raida, gyventojai, amatai, prekyba)», Вільнюс, 1997)

*Тв.*: Abiejų Tautų Respublikos ir Rusijos santykiai 1649—1771 m. imperijos įstatymų rinkinio duomenimis // Lietuvos valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997; Žemaitijos kunigaikštystės miestelių knygininkai XVIII a. // Knygotyra. Vilnius, 1998. T. 25; LDK kariuomenė kovose prieš kazokus 1648—1649 m. // Karo archyvas. Vilnius, 1998. T. 15; Rokiškio krašto miesteliai iki XIX a. // Rokiškis ir jo apylinkės. Vilnius, 1999; The small towns of Žemaitija in the seventeenth and eighteenth centuries // Mare nostrum. Vilnius, 1999. № 1; Przynależność etniczna wilnian i ich lojalność względem władzy w czasie wojen z Moskwą w połowie XVII w.:

Rozważania nad tematem // Kultura Litwy i Polski w dziejach: Tożsamość i współistnienie. Międzynarodowe centrum kultury w Krakowie. Seria Nauka. 2000. № 9; Lietuvos bajorų kasdienybė pagal jų XVII a. pabaigos dienoraščius // Kultūros sankirtos. Vilnius, 2000; Rusų okupacinė valdžia Vilniuje 1655—1661 m. // Lietuva ir jos kaimynai: Nuo normanų iki Napoleono. Vilnius, 2001.

**Мельніцкая унія 1501**, дзяржаўны саюз паміж Польшчай і ВКЛ. Акт М.у. падпісаны 23.10.1501 у г. Мельнік (Падляшскае ваяв.) пры абранні вял. князя літоўскага *Аляксандра* на каралеўскі пасад Польшчы. Акту папярэднічаў дагавор, заключаны дэлегацыямі польскага сойма з аднаго боку і Аляксандра і Рады ВКЛ з другога ў г. Пётркаў у час бескаралеўя. М.у. аднаўляла дзярж. унію, якая перапынілася ў 1492 пры абранні братоў Яна Ольбрахта і Аляксандра на пасады Польшчы і ВКЛ. Польскія магнаты зрабілі чарговую спробу аб'яднаць 2 дзяржавы пад кіраўніцтвам Польшчы, карыстаючыся ваеннымі няўдачамі ВКЛ у час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. М.у. прадугледжвала, што ў будучым выбараў вял. князя літоўскага ў Вільні не будзе, але агульны манарх (кароль) будзе выбірацца пажыццёва на агульным сойме дэлегатаў абедзвюх дзяржаў у Пётркаве. Гэта азначала ліквідацыю спадчыннага атрымання пасада ў дынастыі Ягелонаў у ВКЛ і перадачу лёсу выбараў у рукі польскіх паноў, якіх на агульным сойме была б большасць (крыху пазней палажэнні пра выбары караля зафіксаваў *Мельніцкі прывілей 1501*). Прадугледжвалася ўстанаўленне агульнай грашовай сістэмы, правядзенне агульнай унутранай і знешняй палітыкі. Захоўваліся асобныя дзярж. пасады і суды, але новыя члены Рады і службовыя асобы мусілі прысягаць каралю. Фактычна М.у. вяла да ліквідацыі дзярж. самастойнасці ВКЛ. Акт М.у. падпісалі Аляксандр і 27 прадстаўнікоў ВКЛ, але з умовай, што сойм ВКЛ зацвердзіць яго. Гэта стала падставай для адмовы ад М.у., бо значная большасць літ., бел. і укр. баяр, як і сам Аляксандр (бо ліквідавалася спадчыннасць трона), была супраць ліквідацыі суверэнітэту ВКЛ. У выніку шырокай апазіцыі сойм ВКЛ у 1505 не зацвердзіў акт М.у., і ён не набыў сілы. Планы польскіх магнатаў і шляхты ўдалося здзейсніць у выніку заключэння *Люблінскай уніі 1569*.

*Літ.*: Любавский М.К. Литовско-русский сейм. М., 1900; Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932. S. 142—147; Bardach J. Aleksander // Poczet krolów i książąt polskich. 4 wyd. Warszawa, 1993.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Мельніцкі прывілей 1501**. Выдадзены 25 кастр. новаабраным каралём польскім *Аляксандрам* (вял. князь літоўскі з 1492) у г. Мельнік (Падляшскае ваяв.). Быў вымушанай уступкай Аляксандра польскай магнацкай алігархіі ў час заключэння *Мельніцкай уніі 1501*. Паводле М.п. значна вырасла роля сената, без згоды якога дзеянні караля не мелі юрыд. сілы. Пры парушэнні дзярж. актаў каралём сенат меў права яго дэтранізаваць і абраць новага. Кароль не меў права арыштоўваць або праследаваць кагосьці з сенатараў. Аляксандр быў вымушаны выдаць М.п., каб атрымаць дапамогу Польшчы ў *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. Аднак шырокае супраціўленне заможнай і сярэдняй шляхты Польшчы ўстанаўленню магнацкай алігархіі дазволіла каралю не выконваць палажэнні М.п. Пётркаўскі сойм 1504 прыняў 2 законы, якія фактычна скасоўвалі артыкулы М.п. пра вяршэнства сената над каралём. Не набылі сілы і артыкулы пра вяршэнства польскага сената над ВКЛ. Засталіся ў сіле толькі гаспадарчыя артыкулы М.п. Канчаткова прывілей скасаваны Радамскім соймам 1505.

*Літ.*: Papée F. O przywileju mielnickim dla senatu z r. 1501 // Księga pamiątkowa ku czci Oswalda Balzera. Lwów, 1925. T. 2; Sobolewski L., Uruszczak W. Artykuły mielnickie z r. 1501 // Czasopismo prawno-historyczne. 1990. Z. 1—2; Sobolewski L. Wpływ artykułów mielnickich z 1501 r. na rozwój prawa polskiego w XVI w. // Там жа. 1995. Z. 1—2; Samsonowicz H. Historia Polski do roku 1795. 5 wyd. Warszawa, 1990; Bardach J. Aleksander // Poczet krolów i książąt polskich. 4 wyd. Warszawa, 1993.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Мельнскі мір 1422**. Заключаны паміж Польшчай і ВКЛ з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога 27 вер. каля воз. Мельна (у сутоках р. Вісла і Аса) пасля няўдалай для ордэна вайны і спроб дамагчыся ад рымскага папы Марціна V і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунда I абвяшчэння несапраўдным *Тарунскага міру 1411*. Паводле М.м. крыжакі ўступалі Польшчы частку Куявіі з г. Няшава і канчаткова адмаўляліся ад прэтэнзій на Жамойць, якая паводле ўмоў Тарунскага міру мусіла быць перададзена ордэну пасля смерці вял. князя літоўскага Вітаўта. М.м. завяршыў апошнюю вайну паміж ордэнам і ВКЛ і канчаткова ўсталяваў мяжу паміж імі, якая праіснавала да 1-й сусв. вайны.

*Літ.*: Dogiel M. Codex diplomaticus Regni Poloniae et Madni Ducatus Lithuaniae. T. 4. Wilno, 1760.

***Алесь Белы.***

**мемуары**, гл. ў арт. *Дыярыуш*.

**Менск** (цяпер Мінск, горад, сталіца Рэспублікі Беларусь), горад, цэнтр Менскага княства, потым — намесніцтва, павета і ваяводства, на р. Свіслач. Упершыню згадваецца пад 1067. Уваходзіў у склад Полацкага княства, з 12 ст. цэнтр удзельнага княства. Усе паведамленні летапісаў пра М. у канцы 11—1-й трэці 12 ст. звязаны з паходамі кіеўскіх князёў на паўд. і паўд.-ўсх. ўдзелы Полацкай зямлі. У 12 ст. ўпамінаецца ў летапісах у сувязі з княжацкімі міжусобіцамі. З 2-й пал. 12 ст. М. надоўга знікае са старонак летапісаў, бясспрэчна, аднак, што горад заставаўся цэнтрам удзельнага княства, звязанага з Полацкам, з 13 ст. — з Новагародкам, пасля з Трокамі і Вільняй. Пад 1326 упамінаецца, што ў Ноўгарад у складзе пасольства ад вял. кн. Гедзіміна быў менскі кн. *Васіль*. У 1387 вял. кн. Ягайла перадаў свайму брату Скіргайлу землі ў цэнтр. і ўсх. частках сучаснай Беларусі, «тянувшие в Вилно», у т.л. і «город Менеск весь и со всеми людьми и с землею ... пошлиною и с доходом и князи служебные». У грамаце М. выступае як бы гал. цэнтрам усяго зямельнага падаравання «на русской стороне» і, відаць, самым буйным з пералічаных у грамаце населеных пунктаў (апроч Полацка), хоць у тэксце гэта прама і не гаворыцца. Дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу М. да пач. 15 ст. стаў у адм. і гандлёвых адносінах найб. значным горадам цэнтр. Беларусі. У 1429, у час аб'езду вял. кн. Вітаўтам краіны, адзін з яго спадарожнікаў так апісваў наведванне М.: «Затым прыехалі ў замак Менск, куды прыбыло шмат татараў з паўднёвых межаў літоўскай дзяржавы, і яны привезлі ў

План **Менска**. Канец 18 ст.

дар коней, вярблюдаў, стрэлы і шмат іншых падарункаў». Пасля смерці Вітаўта, у ходзе змагання за трон ВКЛ паміж Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам М. у 1433 (паводле інш. звестак у 1434) быў узяты атрадамі Свідрыгайлы, спалены, а жыхары — «мужі і жонкі ... выведзены ў палон». Аднак ужо ў грамаце 1441 вял. кн. Казімір называе М. у ліку 14 найб. значных гар. цэнтраў ВКЛ. У 2-й пал. 15 ст. М. неаднаразова згадваецца ў актах Метрыкі ВКЛ альбо як месца выдачы велікакняжацкіх падараванняў (месца часовага знаходжання вял. князя), альбо як значны гандлёва-эканам. цэнтр, прыбыткамі з якога забяспечваліся гэтыя падараванні (у прыватнасці, упамінаюцца прыбыткі «... з корчом ... и мыт ... менских»). Відаць, тады ж, у 1450—80-я г., М. атрымаў ад вял. князя гар. юрысдыкцыю (у асобнасці — войтаўства), якое, аднак, паводле меркавання Ю.Бардаха, не замацавалася



(як і ў Полацку), так што ў 1499 вял. кн. Аляксандру давялося выдаць М. грамату на поўнае магдэбургскае права.

У 1505 горад быў узяты і спалены крымскімі татарамі, ацалеў толькі замак. У 1508, у час паўстання кн. М.Глінскага, М. падвергнуўся амаль месячнай аблозе, але ўзяты не быў, а пазней наваколлі горада 3—4 разы спусташаліся маскоўскімі войскамі, у апошні раз у 1519. Хоць пасля 1505 і да сярэдзіны 17 ст. М. ні разу не быў узяты, але неаднаразовае спусташэнне наваколляў і пастаянныя ваенныя дзеянні на ўсх. і паўн.-ўсх. межах ВКЛ пазбаўлялі горад асн. крыніцы прыбыткаў — прамых і ўскосных паступленняў ад транзітнага гандлю. Гэтую залежнасць добра ілюструе дынаміка «мыта менского»: 1509 — 300 коп грошаў, 1519 — 150, 1525 — 450, 1532 — 550, 1553 — 1500, 1563 — 2200 коп грошаў.

Відаць, ужо на мяжы 14—15 ст. М. з воласцю кіраваўся велікакняжацкімі намеснікамі і ў адм. адносінах «цягнуў да Вільні». З канца 15 ст. вядома некалькі менскіх намеснікаў: кн. Іван Юр'евіч Заслаўскі (1468—73), кн. Іван Васілевіч Чырвоны (родам з Друцкіх; 1487—89), Мікалай Іванавіч Іллініч (1494—98), кн. Багдан Іванавіч Заслаўскі (1501—25). З 1566 М. — цэнтр *Менскага ваяводства*, самага буйнога на тэр. ВКЛ, прычым у яго склад увайшлі ўсе буйныя населеныя пункты, названыя ў грамаце 1387 непасрэдна пасля М., такім чынам, можна выказаць меркаванне, што ўжо ў канцы 14—пач. 15 ст. адм.-судовая ўлада менскіх намеснікаў распаўсюджвалася не толькі на Менскі пав., але і на шырокі рэгіён паўд.-ўсх. Беларусі, які ўключаў Бабруйск, Рэчыцу, Рагачоў і Гомель.

Самыя раннія дакументы, якія адносяцца да ўнутранага жыцця М., датуюцца канцом 15—пач. 16 ст., але толькі ў 2-й пал. 16 ст. колькасць гэтых дакументаў становіцца дастатковай для комплекснага аналізу і стварае факталагічную аснову для вывучэння жыцця і развіцця горада, у т.л. яго гіст. тапаграфіі. Паводле крыніц канца 16 ст., у М. было 10 парафіяльных цэркваў, 4—5 манастырскіх храмаў (гл. ў арт. *Менскія цэрквы*) і 1 парафіяльны касцёл (усе драўляныя). Адпаведна, насельніцтва горада магло складаць 4—5 тыс. чал. На Траецкай гары знаходзіліся 2 манастыры, 1 або 2 парафіяльныя царквы і касцёл; на правабярэжжы Свіслачы — 2 або 3 манастыры і 5 цэркваў; месцазнаходжанне астатніх няяснае. Рака не проста падзяляла горад на 2 часткі, фактычна ён меў 2 цэнтры, г.зн. горадабудаўнічая структура М. 14—15 ст. была бінарнай.

На правым беразе Свіслачы знаходзіўся замак («Город Менск», «город Менск с местом и поветом» — формулы дакументаў пач. 16 ст.). На Пд ад замка ляжаў рынак, што стыхійна ўтварыўся ўздоўж вул. Нямігскай («Немезской»), якая ўяўляла сабою заканчэнне (першапачаткова каля рачнога перавозу, потым каля гар. моста) 3—4 асн. дарог правабярэжжа. На гэты рынак, відаць, арыентаваўся мясц. гандаль — бліжэйшыя населеныя тэрыторыі на Пд і ПдЗ, а з больш далёкіх рэгіёнаў — Слуцк і Навагародак. Каля замка, а таксама ўздоўж дарог і на беразе Свіслачы, каля зручных для прычалаў месц размяшчаліся стыхійна ўзніклыя плямы і палосы забудовы (неўмацаваны пасад).

На левым беразе Свіслачы да пач. 17 ст. размяшчаўся ўласна горад («места») — жылы, рамесны і гандлёвы цэнтр. Левабярэжжа мела развітую сістэму вуліц з трохвугольнай гандлёвай плошчай на паўд.-зах. схіле Траецкай гары, там жа знаходзіліся і найбольш старадаўнія манастыры і цэрквы і фарны касцёл. Менавіта тут, па левым беразе Свіслачы ў 14—15 ст. праходзіў асн. транзітны шлях рэгіёна — са Смаленска ў Вільню.

Да сярэдзіны 16 ст. тэндэнцыі стыхійнага развіцця, атрыманыя М. у спадчыну ад першых стагоддзяў яго існавання, ужо не адпавядалі ні новым рэаліям жыцця горада (буйны цэнтр транзітнага гандлю з самакіраваннем паводле магдэбургскага права, цэнтр ваяводства), ні эпосе ў цэлым. Першым, фармальным і ў значнай меры выпадковым імпульсам да здзяйснення прынцыповых змяненняў у абліччы горада, перш за ўсё яго планіровачнай структуры, паслужыў вял. пажар 1547. Менскі замак згарэў цалкам, а «место менское» — амаль цалкам. Для дапамогі пацярпелым жыхарам горада вял. кн. Жыгімонт Аўгуст вызваліў іх на 10 гадоў ад усіх падаткаў і мытных выплат. Першае прамое ўпамінанне аб работах па перапланіроўцы М. ёсць у дакументце ад 10.3.1571. Жыхары горада прасілі ў якасці эканам. дапамогі прывілей на правядзенне 2 кірмашоў у год і збор маставога на рацэ Свіслачы з купцоў, што праязджалі праз М., і спасылаліся пры гэтым на шкоду, якая прычыняецца гораду праходам праз яго войск і паслоў, а таксама на цяжкасці, звязаныя з тым, што мяшчане «порадокъ в месте тамошнем чинечи, домы свои знову на иньшие местца переносят и будуют». З тэксту граматы вынікае, што самае позняе на мяжы 1560—70-х г. у М. пачалася інтэнсіўная перапланіроўка горада, прычым па прамым указанні вял. князя («з росказанья нашого»).

Да 1600 на плошчы ўжо была пабудавана ратуша, а навакольныя кварталы з рэгулярнай планіроўкай, якія атрымалі назву Новае (Высокае) места (сучасная пл. Свабоды, якая ўяўляе сабой амаль правільны прамавугольнік, і 6 вуліц, што разыходзяцца ад яе ў паўд. і зах. напрамках), сталі больш як на 3 стагоддзі адм. і эканам. цэнтрам М., які атрымаў у 1591 гар. герб з выявай унебаўзяцця Маці Божай.

Будаўніцтва знешніх умацаванняў М. (землянога вала з бастыёнамі) працягвалася да 1630—40-х г., аднак яны так і не былі зроблены ў прадугледжаным праектам аб'ёме. Тым не менш у бытавых адносінах горад да сярэдзіны 17 ст. меў «лінію», што аддзяляла яго ад навакольнай прасторы, бо ў дакументах згадваецца некалькі брам. Так, пад 1649 упамінаецца «дом ... при браме Юрьевской», у 1653 — «нива ... за брамой Койдановской», згадваецца і «брама Лошицкая». Юр'еўская брама знаходзілася прыкладна на рагу сучасных вул. Ракаўскай і Шпалернага завулка, Койданаўская — у раёне перакрыжавання сучасных вул. Рэвалюцыйнай і вул. Гарадскі Вал, Лошыцкая — на праспекце Незалежнасці, у раёне ГУМа.

З 2-й пал. 16 ст. М. стаў месцам збору павятовых соймікаў, у горадзе рэгулярна (3 разы на год) праводзіліся пасяджэнні земскага суда, а з 1581 па 1775 — раз у 2 гады пасяджэнні Трыбунала ВКЛ. У 16 ст. М. стаў у поўным сэнсе слова шматнацыянальным — правасл. цэрквы, касцёл, сінагогі і мячэць адлюстроўвалі этнаканфесіянальны склад насельніцтва горада.



У 2-й пал. 16 ст. з'явіўся ў М. і кальвінскі збор, які даў назву адной з цэнтр. вуліц (сучасная вул. Інтэрнацыянальная). Пра высокі сац.-эканам. ўзровень развіцця М. сведчаць існаванне тут больш як 20 рамесных спецыяльнасцей у 16 ст., каля 40 ў 17—18 ст., актыўная роля рамесных цэхаў у жыцці горада, гандлёвыя зносіны з гарадамі Вял. і Малой Польшчы, Прусіі, Чэхіі і Германіі.

Ваенныя падзеі сярэдзіны 17 ст., што выклікалі рэзкі дэмаграфічны спад і амаль поўнае вынішчэнне інфраструктуры населеных пунктаў усх. і цэнтр. Беларусі, у значнай меры адбіліся на ўзроўні сац.-эканам. жыцця і абліччы М. Улетку 1655, у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, М. быў вельмі хутка, без аблогі ўзяты атрадам маскоўскіх войск. У снеж. 1655 цар Аляксей Міхайлавіч «указал ... в Менску для военного бережения сделать крепость какую пристойно». Пасля агляду ўмацаванняў рас. ваяводы даносілі ў Маскву, што «в Менску ... старая осыпь вкруг всего посаду велика ... высока и кругом той осыпи обошла вода и болоты. Один въезд в город и на той осыпи пристойно городу или острогу быть» (несумненна, гаворка ідзе аб замку). Аднак замкавы вал не ўдалося прывесці ў належны стан, у сувязі з чым у канцы 1656—пач. 1657 узнік план уладкавання ўмацаванага лагера ў паўд.-ўсх. вуглу сучаснай пл. Свабоды, скарыстаўшы для гэтага мураваныя карпусы Святадухаўскага уніяцкага манастыра, дамініканскага кляштара і ратушы, але гэты намер не быў выкананы да канца. Узімку 1658—59, пры набліжэнні войск ВКЛ М. без бою быў пакінуты рас. войскамі. За 4 гады М. вельмі моцна пацярпеў ад рабаванняў і амаль спусцеў. Сойм Рэчы Паспалітай 1661 сярод гарадоў, што пацярпелі ад вайны, згадаў і М.: «Места Менскае знесена до основы ... мещане збегли кто куды».

У 1667 у М. налічвалася каля 300 двароў, не больш за 2 тыс. жыхароў, аднак горад паступова адраджаўся. Чэх Б.Танэр, які праязджаў праз М. у 1678, пісаў: «Гэты горад вялікі, шырока раскіданы па пагорках і далінах... Нядрэнныя і даволі шматлікія цэрквы схізматыкаў і цяпер робяць горад прыгожым... Галоўная аздоба плошчы — ратуша, што стаіць пасярэдзіне і акружана мноствам крамаў». У 1697 маскоўскі стольнік П.Талстой, хоць і адзначыў у сваім дзённіку, што «Минск меньше Могилева многим», аднак далей пісаў: «Строения каменного в Минске немало... Есть много домов каменных и в рядах, где торгуют — лавок каменных и товаров есть немало». У гэтым годзе М. вельмі моцна пацярпеў ад пажару. Я.Корб, які праязджаў праз М. у 1700, паведамляў, што «пажар, які здарыўся за тры гады да нашага прыезду, прывёў раней вельмі багаты і славуты горад у стан такой жаласнай беднасці, што гандаль, які квітнеў раней, цяпер амаль цалкам спыніўся».

У ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* праз М. некалькі разоў у 1706—08 і 1720 праходзілі рас. і шведскія войскі, прычым кожны раз ад жыхароў патрабавалі правіянт і грашовую кантрыбуцыю. У 1708 у М. была маравая пошасць і вял. пажар. Нават у сярэдзіне 18 ст. гэтыя падзеі адбіваліся на ўзроўні сац.-эканам. жыцця горада. У каралеўскай грамаце 1744 адзначаны «спусташэнне, заняпад і разбурэнне Менска з прычыны варожых нашэсцяў, рабаванняў, праходаў і пастояў войск... неаднаразовыя пажары, эпідэміі, голад і іншыя беды ... якія давялі гэты горад да поўнага заняпаду». У 1762 і 1776 М. зноў моцна пацярпеў ад пажараў.

У пач. 17 ст. ўсе старажытныя правасл. цэрквы і манастыры М. сталі уніяцкімі. У 1612 быў заснаваны Петрапаўлаўскі манастыр, каменная царква якога каля 200 гадоў заставалася адзіным правасл. храмам горада. Да пач. 18 ст. большасць драўляных цэркваў М. былі альбо знішчаны, альбо стаялі у руінах, засталося толькі 5 уніяцкіх храмаў, у т.л. 2 манастырскія, адзін з іх мураваны. У 17—1-й пал. 18 ст. ў М. былі збудаваны 7 каменных і 3 драўляныя касцёлы, усе — пры кляштарах 5 мужчынскіх і 2 жаночых ордэнаў. Фарны касцёл на Траецкай гары па-ранейшаму заставаўся драўляным і неаднаразова аднаўляўся пасля частых пажараў. У сярэдзіне 18 ст. скончылася фарміраванне архітэктурнага ансамбля плошчы Верхняга горада, які складаўся з некалькіх дзесяткаў культавых і грамадзянскіх будынкаў, у асноўным мураваных. У канцы 18 ст. ў М. налічвалася ўжо да 1000 двароў, больш за 6 тыс. жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) М. увайшоў у склад Рас. імперыі.

*Літ.*: Николай. Историко-статистическое описание Минской епархии. СПб., 1864; Игнатов Р.Г. Археологическое обозрение церквей Минска // Минские губернские ведомости. 1877. № 34—36, 41—46, 50; 1878. № 4—5; Слупский А.И. История Минска // Северо-западный календарь на 1893 год. Мн., 1892; Снитко А. Минск в XVII в. // Минская старина. Мн., 1909. Вып. 1; Дружчыц В. Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. // Працы БДУ. 1926. № 12; Даўгяла З. Стары Менск // Наш край. 1928. № 1—3; Ягораў Ю.А. Да пытання аб горадабудаўнічай гісторыі Мінска ў XVII—XVIII і першай палове XIX стст. // Весці АН БССР. 1955. № 3; Карпачоў Е. Эканамічнае развіццё Мінска ў XVIII ст. // Там жа. 1962. № 2; Денисов В.Н. Площадь Свободы в Минске. Мн., 1985; Соболь В.Е. Основные этапы заселения территории феодального Минска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Его ж. О застройке Минска в XIV—XVIII вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн. 1993; Сыракомля У. Мінск: Беглы агляд сучаснага стану Мінска. Мн., 1992; Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992; Боровой Р.В. Историческая топография древнего Минска: Обзор источников и современное состояние проблемы // Гіст.-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 12; Его ж. Минские древности: «Старый город» средневекового Минска по письменным источникам // Там жа. Мн., 2000. № 15; Его ж. Между Свислочью и Немигой: «Замок Менский» — история и современность // Архитектура и строительство. 2003. № 1; Его ж. Менск у XVI стагоддзі: першы «генеральны» план горада і яго магчымы аўтар // Беларускі гістарычны агляд. 2004. Сш. 1—2.

***Расціслаў Баравы.***

**Менскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Утворана ў 1565 у складзе *Менскага павета* і *Рэчыцкага павета*, у 1569 са складу Кіеўскага ваяв. далучаны *Мазырскі павет*. Мела харугву чырвонага («гваздзіковага») колеру з выявай герба «Пагоня» ў белым полі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) усх. землі ваяводства адышлі да Рас. імперыі. Скасавана пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793), яго тэр. ўвайшла ў Мінскую губ. Рас. імперыі.

Ваяводы менскія: Г.І.Гарнастай (1566—76), М.П.Сапега (1576—88), Б.П.Сапега (1588—93), Я.Абрамовіч (1593—96), А.І.Завіша (1596—98),



Я.Д.Пац (1600—10), М.К.Сапега (1611—18), П.Тышкевіч (1618—31), Б.Стравінскі (1631—33), А.Слушка (1633—38), М.Сапега (1638), А.Масальскі (1638—43), А.Масальскі (1643—45), А.Агінскі (1645—49), Г.Раецкі (1649—54), К.Рудаміна-Дусяцкі (1654—55), К.Цеханавецкі (1655), Я.С.Кештарт (1656—67), К.Белазор (1667—80), М.Даўмонт-Сясіцкі (1680—98), У.Сапега (1699—1709), К.Зяновіч (1709—17), К.Завіша (1720—21), Я.К.Жаба (1724—54), Я.А.Гільзен (1754—67), Ю.Гільзен (1767—70), Т.Бужынскі (1770—73), Ю.Радзівіл (1773—84), А.Хмара (1784—93).

Кашталяны менскія: М.С.Тальваш (1566—70), Я.Я.Глябовіч (1572—84), М.Б.Гарабурда (1584—86), В.В.Агрыпа (1586—90), М.Стравінскі (1590—92), А.П.Сапега (1592—97), Ю.Я.Корчак (1597), П.М.Дарагастайскі (1597—1600), Ш.Я.Галоўчынскі (1600—10), П.Тышкевіч (1611—18), А.Слушка (1618—28), А.Завіша (1628—30), Я.А.Ляцкі (1630—34), Г.Дунін-Раецкі (1634—49), М.С.Чацвярцінскі (1649—59), Я.Т.Кунцэвіч (1661), С.К.Кандзежаўскі (1661—63), А.Юдзіцкі (1672—77), Я.П.Юдзіцкі (1694), К.Есьман (1697), А.Пузына (1697—1701), К.Война-Ясяніцкі (1701), М.Шчука (1701—1709), Т.А.Ванькові ч (1710), Ш.Любецкі-Друцкі (1710), Я.Ф.Сапега (1711—12), Д.Выгоўскі (1713—40), А.Глябіцкі-Юзефовіч (1740—58), М.Юдзіцкі (1742—58), Я.Юдзіцкі (1758—77), А.М.Ракіцкі (1777—79), А.Хмара (1779—84), Ш.Забела (1784—87), Ш.Забела (1787—92), М.Абуховіч (1792—93).

*Вячаслаў Насевіч.*

**Менскае княства**, удзельнае княства Полацкай зямлі ў басейне р. Свіслач, Друць, Бярэзіна. Цэнтр — г. *Менск*. Узнікла ў канцы 11 ст. У канцы 13 ст., відаць, трапіла пад уплыў літ. князёў. У складзе пасольства вял. князя ВКЛ Гедзіміна ў Ноўгарад у 1326 упамінаецца менскі кн. *Васіль*, што, напэўна, сведчыць пра тое, што М.к. ўваходзіла ў паліт. сістэму ВКЛ. У далейшым у Менску сядзелі велікакняжацкія намеснікі.

**Менскае староства**, дзяржаўнае ўладанне ў Менскім пав. ў 15—18 ст. У 17 ст. лічылася каралеўскім сталовым маёнткам. Гродавае староства ўключала г. *Менск* з замкам, дзе адбываўся гродскі суд, і некаторыя навакольныя вёскі. На пасадзе менскіх старастаў упамінаюцца: Я.Хадкевіч (1459), І.І.Заслаўскі (1467—73), Іван Васілевіч (Карэцкі?; 1487—89), М.І.Ільініч (1494—99), Б.І.Заслаўскі (1499—1525), В.Тышкевіч (1544—71), Г.Гарнастай (1571—82), Дз.Тышкевіч (1588—92), А.Станкевіч (1595—97), П.Тышкевіч (1625), К.Завіша (1631—45), А.К.Завіша (1645—47), Я.М.Завіша (1685), К.С.Завіша (1685—1720), І.Завіша (1720—38), У.К.Радзівіл (1739—46), Ю.Іваноўскі (1746), І.Іваноўскі (1765), А.Пшаздзецкі (1767—72), Д.Пшаздзецкі (1772—82), М.Бжастоўскі (1782), Г.В.Радзівіл (1783—86), М.Г.Бжастоўскі (з 1787).

*Літ.*: Беларускі архіў. Т. 3. Мн., 1930.

*Валерый Пазднякоў.*

**Менская ратуша**. Існавала ў 17—19 ст. у *Менску*. Пра будаўніцтва ратушы ў Менску ў 1499 адзначана ў прывілеях па арганізацыі кіраўніцтва ў горадзе паводле магдэбургскага права. Як існуючая ратуша ўпамінаецца ў 16 ст. У 1591—1600 пабудавана з цэглы ў стылі рэнесансу (на вежы ўсталяваны першы гар. гадзіннік). З пач. 17 ст. звесткі пра ратушу ёсць у дакументах (напр., у 1617), што стаіць яна на пл. Высокага рынку (Саборнай пл., сучасная пл. Свабоды). У ратушы праходзілі пасяджэнні органаў гар. самакіравання — магістрата, рады, захоўваліся прынятыя ў горадзе адзінкі меры вагі, аб'ёму. Будынак ратушы моцна пашкоджаны пажарам 1640, адноўлены (існаваў у 1656). У 1744 перабудавана ў стылі барока па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам войта С.Буржынскага. У канцы 18 ст. перабудавана губернскім архітэктарам Ф.Крамерам, набыла рысы класіцызму. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак быў накрыты пакатым вальмавым дахам. Цэнтр. частка сіметрычнага па кампазіцыі гал. фасада была вылучана рызалітам з 3-маршавымі ўсходамі, акцэнтавана чацверыковай вежай, завершанай купалам са шпілем з флюгерам. Рызаліт і тарцы афармлены 4-калоннымі порцікамі іанічнага ордэра. У 1819 ратуша зноў рэканструявана (архітэктар М.Чахоўскі). Да



**Менская ратуша**. Сучасны выгляд.

яе фасада з ПдУ прыбудавана мураваная агароджа, упрыгожаная стукавым дэкорам і жывапіснымі кампазіцыямі. На месцы прылеглых да ратушы прыбудоў разбіты невял. рэгулярны сквер. У 1825—35 бакавыя порцікі былі завершаны франтонамі. У канцы 18—пач. 19 ст. ў будынку знаходзіліся магістрат, суд, гаўптвахта, гарадавы, паліцыя, архіў, у 1830-я г. — муз. школа. У 1847 зала на 2-м паверсе прыстасавана пад тэатр (арх. К.Хршчановіч, афармленне інтэр'ераў мастака Я.Кураткевіча). У 1851—57 будынак ратушы і сквер знішчаны па распараджэнні Мікалая І. У канцы 19 ст. сквер адноўлены, існуе і цяпер. У выніку археалагічных і архітэктурных даследаванняў 1978 і 1988 устаноўлена, што будынак быў узведзены ў асноўным з малафарматнай цэглы-пальчаткі ў тэхніцы мяшанай муроўкі з выкарыстаннем камянёў (16—17 ст.). Ратуша адноўлена.

*Літ.*: Дзянісаў У.М. Мінская ратуша // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1979. № 3; Яго ж. Площадь Свободы в Минске. Мн., 1985. С. 27—30.

*Уладзімір Дзянісаў.*

**Менскі абраз Маці Божай**, Менская Адзігітрыя, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Паводле легенды, прывезены кн. Уладзімірам Святаславічам з Корсуні (Херсона) і ад часоў хрышчэння Русі знаходзілася ў кіеўскай Дзесяцціннай царкве; уцалеў пры разбурэнні Кіева татара-манголамі ў 1240; у канцы 15 ст. ў час набегу на Кіеў крымскія татары знялі з абраза каштоўныя аздобы і кінулі яго ў Дняпро. Паводле падання, у 1500 абраз таямнічым чынам з'явіўся ў Менску на р. Свіслач насупраць замка. Яго заўважы-



**Менскі абраз Маці Божай.**

лі гараджане па незвычайным святле на гэтым месцы і ўрачыста перанеслі ў замкавую царкву Нараджэння Багародзіцы. Пасля заключэння Берасцейскай уніі 1596 вакол царквы і абраза вялася барацьба паміж менскім магістратам і мітрапалітам Міхаілам Рагозай. 18.10.1616 паводле распараджэння уніяцкага мітрапаліта Іосіфа Руцкага абраз перанесены з замкавай царквы ў храм Свята-Духаўскага манастыра. Менскія мяшчане прасілі дазволу пабудаваць новую царкву ў замку і перанесці ў яе цудатворны абраз. Дазвол на будаўніцтва Іосіф Руцкі даў, але абраз пакінуў «на вечныя часы» ў царкве Св. Духа, дзе ён і знаходзіўся пад апекай базыльян больш як 2 стагоддзі. Пасля далучэння Менска да Рас. імперыі (1793) і скасавання уніі (1839) Свята-Духаўская царква пераўтворана ў Петра-Паўлаўскі кафедральны сабор. У 1852 абраз быў аздоблены новай сярэбранай пазалочанай рызай з каштоўнымі камянямі і кароткім гіст. надпісам унізе, над галовамі — каронай з брыльянтамі. У скарбонку каля абраза людзі апускалі ахвяраванні і пісьмы-падзякі за вылячэнне. У 1920-я г. каштоўная рыза з абраза канфіскавана, у 1936 сабор узарваны, абраз перададзены ў музей. У пач. Вял. Айч. вайны абраз ураваны вернікамі і ў 1941 унесены ў сабор св. Кацярыны на Нямізе. Пасля закрыцця царквы на Нямізе ў 1945 святыню перанеслі ў Свята-Духаўскі храм, дзе ён і знаходзіцца ў ківоце ў паўн. нефе; карыстаецца вял. пашанай. Свята абраза святкуецца 13(23) жн. (дзень яго з'яўлення ў 1500). Абраз намаляваны тэмперай па ляўкасе на драўлянай аснове з каўчэгам, яго памеры 140 ? 105 см. Паводле іканаграфіі — Адзігітрыя, набліжаная да Цэсарскай. Першапачатковы жывапіс знаходзіцца пад запісамі розных часоў. У 1990-я г. абраз адрэстаўрыраваны П.Журбеем.

*Літ.*: Пятисотлетие явления Минской иконы Божией Матери. Мн., 2000.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Менскі езуіцкі калегіум**, сярэдняя навучальная ўстанова ордэна езуітаў у *Менску*. Комплекс будынкаў калегіума знаходзіўся на пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды). К канцу 18 ст. займаў яе паўд.-зах. бок і большую частку вул. Койданаўскай (сучасная Рэвалюцыйная) да перасячэння з вул. Феліцыянскай (сучасная Камсамольская); уключаў касцёл, калегіум, школу і гасп. пабудовы. Місія езуітаў існавала ў Менску ў 1654—86, у 1686—1714 рэзідэнцыя, у 1714—73 калегіум. Спачатку размяшчалася ў сядзібе мешчаніна Ягора Гегера па вул. Койданаўскай (Рэвалюцыйная, 1), абнесенай высокай мураванай агароджай з некалькімі брамамі (апрача 2-павярховага мураванага палаца былі стары драўляны дом, стайня, свіран, інш. гасп. пабудовы). У 1654 гэтую сядзібу купіў для езуітаў смаленскі біскуп Геранім Сангушка і завяшчаў ім 70 тыс. злотых. Спачатку займаў мураваны 2-павярховы палац, побач з якім у 2-й пал. 17 ст. быў пабудаваны невялікі мураваны касцёл. Да канца 17 ст. ўзведзены 2-павярховы будынак школы, у пач. 18 ст. — касцёл, да сярэдзіны 18 ст. — калегіум. У глыбіні квартала размяшчаліся гасп. пабудовы.



**Менскі езуіцкі калегіум.**
Фота 1928.

Цэнтр. месца ў ансамблі займаў касцёл Ісуса, Марыі і св. Барбары (пасля 1798 Марыінскі кафедральны), пабудаваны ў 1700—10 у стылі барока. Трохнефавая 6-слуповая базіліка. Знаходзіўся крыху ў глыбіні ад чырвонай лініі забудовы, што ўтварала невял. курданёр. Цэнтр. неф, накрыты 2-схільным дахам, пераходзіць у прэсбітэрый з паўкруглай алтарнай апсідай, над якой тарэц даху быў закрыты пластычным шчытом. Абапал апсіды ў бакавых нефах размешчаны 2 капліцы (Св. Тройцы і св. Феліцыяна, фундатар апошняй К.Завіша, 1722), накрытых купаламі на гранёных светлавых барабанах. Двухвежавы гал. фасад, арыентаваны на плошчу, расчлянёны складанымі карнізамі і цягамі, аздоблены калонамі, паўкалонамі і пілястрамі, завяршаўся фігурным франтонам паміж 5-яруснымі вежамі (дабудаваны ў 1731), дэкарыраванымі пілястрамі іанічнага ордэра і завершанымі невял. купаламі. Сярэдняя частка фасада падзелена на 2 ярусы складанапрафіляванымі карнізамі і ўвянчаная фігурным франтонам з сігнатуркай. У 2-м ярусе было вял. лучковае акно ў абрамленні падвойных калон іанічнага ордэра. У глыбокіх паўцыркульных нішах вежаў і фратона стаялі драўляныя скульптуры (св. Пятра і св. Паўла на вежах, Марыі з дзіцем на франтоне). На вежах былі ўстаноўлены 4 званы (Казімір, Тадэвуш, Феліцыян і Якуб, апошні важыў 350 пудоў). Нефы былі перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны шырокімі плоскімі пілястрамі, вокнамі з лучковым і паўцыркульным завяршэннем. У інтэр'еры, перакрытым цыліндрычнымі скляпеннямі, было 12 драўляных скульптур апосталаў (не захаваліся), фрэскі (мастак Казімір Антон Анташэўскі), больш раннія фрэскі знаходзіліся ў капліцах, карціны Ш.Чаховіца і Ю.Аляшкевіча. Насценную размалёўку сямейнай капліцы Завішаў зрабіў М.Бейтнік (1739). У 1749 побач з касцёлам пабудавана аптэка з лабараторыяй. У 1798—1800 інтэр'ер касцёла рэканструяваны, інш. перабудовы



зроблены ў 1853—54, у 1951 перапланаваны і перабудаваны гал. фасад, у будынку размешчаны савет спартыўнага таварыства «Спартак».

На ПнЗ ад касцёла знаходзіўся мураваны калегіум (раней існаваў драўляны будынак), злучаны з ім працяглым калідорам, узведзены ў 1733—47. У 1738 быў пашкоджаны ў час пажару; у 1745—46 з боку вул. Койданаўскай прыбудавана 3-павярховае крыло (у ім размяшчаліся кухня, трапезная і інш.). 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак калегіума калідорнай планіроўкі; цэнтр гал. фасада яго вылучаўся 3-яруснай вежай з гадзіннікам (1738—50), завершанай барочным купалам. Пасля пажару 1797 будынак калегіума быў рэканструяваны. З 1799 у ім знаходзіліся дзярж. ўстановы, пасля 1820 — гар. дума, у 1852—1917 — казённая палата. Разбураны ў 1950-я г., на гэтым месцы ўзведзены жылы дом.

З ПнУ да касцёла прылягаў прамавугольны ў плане 2-павярховы з вальмавым дахам будынак школы (злучаўся з паўн.-ўсх. вежай касцёла). Пабудаваны ў 1699 (паводле інш. звестак— у 1769—70-я г.). Цэнтр. частка гал. фасада была вылучана квадратнай у плане вежай, завершанай купалам. З 1773 (пасля скасавання ордэна езуітаў) у будынку размешчана свецкая 6-гадовая школа. Пасля перабудовы школы ў 1799—1917 — дом губернатара, цяпер — муз. школа (у 1968 зроблена апошняя перабудова, рэканструкцыя, надбудаваны 3-і паверх).

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кальвінскі збор.** Пабудаваны ў *Менску*, відаць, у канцы 16 ст. Вядомы з 1596, калі рэчыцкі стараста кн. Я.І.Жыжэмскі перадаў яму зямельныя ўладанні і дом у Менску. Дом з гаспадарчымі пабудовамі знаходзіўся на вул. Юр'еўскай (частка сучаснай вул. Інтэрнацыянальнай каля Кастрычніцкай пл.), агарод цягнуўся да р. Свіслач. Збору належалі таксама сенажаць за Свіслаччу каля Буркалаўскага броду і 5 ніў. Збор, відаць, знаходзіўся ў вуглу рынку каля вул. Зборавай (частка сучаснай вул. Інтэрнацыянальнай ад пл. Свабоды да вул. Урыцкага). Ён не меў сталага багатага патрона, таму часта даводзілася займацца пошукамі матэрыяльных сродкаў на яго ўтрыманне. У 1616 меркавалася перадаць частку грошай, завешчаных кн. С.Горскім Віленскаму кальвінскаму збору, на патрэбы збору ў Менску — купіць фальварак, з даходаў якога можна было б падрыхтаваць святара і настаўніка («міністра і бакалаўра»). У 1617 духоўныя асобы былі вымушаны звярнуцца да патронаў з просьбай забяспечыць збор і яго святароў належным утрыманнем. Сярод тых, хто ахвяраваў сродкі на збор, былі Я.Радзівіл, М.Тальваш, Я.Жыжэмскі, А.Храпавіцкі. У 1627 на партыкулярным сінодзе Бел. дыстрыкта абмяркоўвалася пытанне пра ўзвядзенне новага будынка М.к.з. На гэта К.Радзівіл даў дрэва, цэглу і вапну, менскі пісар М.Вяжэвіч падараваў звон і абяцаў даць камяню і пабудаваць кафедру, Я.Цадроўскі даў скрыню шкла. Збор атрымліваў падараванні ад мясц. шляхты: дом на вул. Зборавай запісала пані Салагубава, дом на зборавым пляцы — Я.Пратасовіч з жонкай, дом на вул. Вял. Лошыцкай — Я.Віхароўскі. Паміж кальвініцкай абшчынай і мясц. ўладамі, насельніцтвам час ад часу ўспыхвалі канфлікты. У 1601 магістрат і мяшчане выказалі незадаволенасць тым, што абшчына не несла са сваёй маёмасці ніякіх павіннасцей на карысць горада. У час войнаў у сярэдзіне 17 ст. збор зруйнаваны. Як сведчаць матэрыялы рэвізіі збораў 1669, у гэты час менская кальвініцкая абшчына не мела ні храма, ні звона, ні памяшкання для святара, толькі невял. капліцу з дзіравым дахам. У той жа час збору належала грашовых запісаў на суму больш за 10 тыс. злотых і зямельныя ўгоддзі. Аднак гэты капітал амаль не прыносіў даходу. На зборавых сесіях 1670 у Менску разглядалася пытанне аб спаленні збору (відаць, у гады вайны) і фінансавых сродках, неабходных для яго аднаўлення; прапаноўвалася аддаць у заставу частку зямельных уладанняў. Некаторы час весці набажэнства ў Менск прыязджаў казнадзей з Койданава. М.к.з. перастаў існаваць, магчыма, у 1-й пал. 18 ст. — у спісе збораў ВКЛ 1748 ён не ўпамінаецца.

*Літ.*: Merczyng H. Zbory i senatorowie protestańccy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1904. S. 91; Іванова Л. З гісторыі Менскага кальвінскага збору // Спадчына. 2003. № 1.

***Людміла Іванова.***

**Менскі кляштар баніфратраў.** Існаваў у *Менску* ў 1700—1832. Заснаваны менскім стольнікам і падстарастам Антоніем Тэадорам Ваньковічам, які ў 1700 ахвяраваў баніфратрам 10 тыс. злотых і вял. пляц на Старым (Нізкім) рынку пад будаўніцтва касцёла, кляштара, шпіталя і інш. пабудоў, а таксама фальварак Кальварышкі (за горадам над р. Свіслач), які меў 1 валоку і 15 моргаў ворнай зямлі і комплекс жылых і гасп. пабудоў. Адначасова старадубскі стольнік М.Радкевіч падараваў кляштару 2 сенажаці над Свіслаччу. У 1750 дыяспалітанскі біскуп А.Любінецкі ахвяраваў кляштару 8 тыс. злотых на алтар св. Аўгусціна. Акрамя таго кляштару належалі юрыдыкі ў горадзе, а таксама некалькі пляцаў з жылымі дамамі. Невял. мураваны будынак касцёла ўзведзены ў 1-й пал. 18 ст., моцна пацярпеў у час вял. гарадскога пажару 1762. У 1764 прыёр кляштара Клеменс Вільчэўскі заключыў кантракт з майстрамі менскага мулярскага цэху Антоніем Каплінскім і Пятром Макарэвічам на аднаўленне і разбудову касцёла (планавалася дабудаваць 2-вежавы гал. фасад і мураваную сакрысцію). Паводле візіты 1796 мураваны прамавугольны ў плане 1-нефавы будынак касцёла св. Яна Божага гал. 2-вежавым фасадам выходзіў на рыначную плошчу. У інтэр'еры касцёла, часткова перакрытага крыжовымі скляпеннямі, знаходзіліся 3 драўляныя разныя алтары. У гал. 2-ярусным алтары, які ўпрыгожвалі 4 ліхтары, знаходзіліся абразы св. Яна Божага, Аўгусціна і Ісуса Хрыста, а ў бакавых — абраз Найсвяцейшай Маці Божай і фігура ўкрыжаванага Хрыста. Драўляны 2-павярховы будынак кляштара выходзіў на вул. Казьмадзям'янаўскую. На 1-м паверсе знаходзіліся 18 крам, якія здаваліся ў арэнду, а на верхнім жылі манахі. На вул. Збіцкую выходзіла 2-павярховая камяніца, у якой на 1-м паверсе было 7 крам, а на 2-м — жылыя пакоі і кухня. На тэрыторыі кляштара знаходзіўся драўляны 1-павярховы будынак шпіталя на 18 ложкаў, а таксама комплекс драўляных гасп. пабудоў і невял. сад. Пры кляштары была невял. бібліятэка, якая мела каля 50 кніг і рукапісаў на лацінскай мове. У 1796 у кляштары знаходзіліся 4 манахі. У 1824 да

М.к.б. далучаны *Менскі кляштар рахітаў*. У 1836 кляштар баніфратраў скасаваны, а шпіталь і інш. пабудовы перададзены мінскаму прыказу грамадскай апекі. У 1860-я г. касцёл разбураны, а астатнія пабудовы прыстасаваны пад жыллё.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар бенедыкцінак.** Існаваў у *Менску* ў 1633—1870-я г. Заснаваны віленскім канонікам Войцехам Сялявай, які купіў у Менску 2 дамы з інш. пабудовамі ў С.Друцкага-Горскага і А.Сакалінскага і перадаў іх бенедыкцінкам. Фундуш пацверджаны каралём Уладзіславам IV (14.7.1633) і віленскім біскупам А.Войнам. Першыя манашкі перасяліліся з Нясвіжа. Спачатку будынкі былі драўляныя. Мураваны касцёл св. Войцеха пабудаваны ў 1647—49 (арх. А. Кромер) па Зборавай вул. намаганнямі віленскага ваяводы К.Хадкевіча і яго жонкі Соф'і, мураваны жылы корпус узведзены на сродкі К.К.С.Свірскай. У 1661 Марцыбела Зянкевіч з роду Рагозаў адпісала кляштару фальварак Кодкі ў Рэчыцкім пав. У 1780 комплекс кляштара рэканструяваны архітэктарам Т.Раманоўскім; уключаў касцёл, 2-павярховы жылы корпус з прыбудовай, 2 флігелі, бровар, свіран, стайню і інш. Да прамавугольнага ў плане 1-нефавага асн. аб'ёму касцёла, накрытага высокім 2-схільным дахам, прылягала 5-гранная алтарная апсіда з больш нізкім пакрыццём. Гал. фасад падзелены раскрапаваным карнізам на 2 ярусы, фланкіраваны 3-яруснымі вежамі з купальнымі завяршэннямі. Складаны па малюнку франтон закрываў тарэц даху. Сцены расчлянёныя лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі. У інтэр'еры, перакрытым цыліндрычнымі скляпеннямі, было 5 алтароў. Да паўд. вежы касцёла прылягаў будынак кляштара — 2-павярховы, прамавугольны ў плане, накрыты высокім вальмавым дахам. Рытм фасадаў ствараўся сеткай прамавугольных аконных праёмаў. У канцы 18—пач. 19 ст. кляштару належалі 3 фальваркі, 8 вёсак, 3 карчмы, млын і каля 93 валок зямлі. У 1799 у ім жылі 22 манашкі. Паводле інвентару 1804, меўся фруктовы сад са 150 фруктовымі дрэвамі і агарод. У школе пры кляштары вучылася 18 дзяўчынак (толькі 6 з іх плацілі за вучобу). У 1871 кляштар скасаваны, у 1872 пераабсталяваны пад правасл. жаночы Праабражэнскі манастыр: верхнія ярусы вежаў касцёла і франтон былі разбураны, у цэнтры гал. фасада надбудавана драўляная, абшытая жалезам 3-ярусная шатровая званіца, над нефам — 5 купалаў на глухіх барабанах. У 1930-я г. будынак касцёла прыстасаваны пад клуб, у сярэдзіне 1960-х г. разбураны.



Касцёл **Менскага кляштара бенедыкцінак**. Фота 1871.

*Літ.*: Дзянісаў У.М. Кляштар бенедыктынак // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1981. № 3; Яго ж. Кляштар бенедыкцінак у Мінску // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2000. Вып. 3; Яго ж. Kościół i klasztor Benedyktynek w Mińsku // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7, z. 3 (27); Яго ж. Мінскія бенедыктынкі: Гісторыя зруйнавання кляштара // Наша вера. 2003. № 2; Саўчанка Н. Вачыма фатографа // Наша вера. 2003. № 2; Gwioździk J. Zakonnice i książki: Księgozbiór mińskich benedyktynek // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 2005. Вып. 7.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар бенедыкцінцаў.** Існаваў у *Менску* ў 1700—1832. Заснаваны жонкай менскага харужага Ганнай Статкевіч з Багушэвучаў, якая 20.4.1700 ахвяравала пляц на рагу Койданаўскай вул. і Нямігскага завулка для пабудовы касцёла і рэзідэнцыі бенедыкцінцаў, а таксама 7 тыс. злотых. У 18 ст. тэрыторыя кляштара была пашырана дзякуючы намаганням менскага лентвойта К.Валіцкага, бурмістраў М.Кудышэвіча і Б.Мазуркевіча, а таксама А. і М. Багушэвічаў. У 18 ст. апекунамі кляштара былі харужы Ф.Быкоўскі, С.Ваньковіч, Ю.Г.Аскерка, К.А.Храпавіцкі, Русецкія і інш. Акрамя пляцаў і юрыдык у горадзе кляштару належаў фальварак Басыялаўка (Басалаўка) за Татарскім канцом, які набыў для кляштара ксёндз М.Круковіч у 1703. Паводле візіты 1797 драўляны касцёл св. Міхала Арханёла быў пабудаваны ў 1773 намаганнямі ксяндза Свідэрскага. Авальны ў плане будынак касцёла галоўным 2-вежавым фасадам выходзіў на вул. Койданаўскую. Паміж вежамі знаходзіўся шчыт, які закрываў тарэц гонтавага даху і быў завершаны жалезным крыжам. Інтэр'ер храма ўпрыгожвалі 5 жывапісных аптычных алтароў, намаляваных на палатне. У гал. алтары знаходзіўся абраз св. Міхала, а над ім вял. драўляны крыж з фігурай Ісуса. У астатніх алтарах былі абразы Найсвяцейшай Панны Марыі, св. Бенядзікта, св. Схаластыкі. У капліцы знаходзіўся абраз Ісуса Назарэтанскага. На рагу вул. Койданаўскай і Феліцыянаўскай (былы Нямігскі завулак) знаходзіўся вял. 2-павярховы драўляны будынак кляштара з алькежамі. На тэрыторыі кляштара знаходзіўся комплекс гаспадарчых драўляных пабудоў, а таксама афіцына. За гаспадарчымі пабудовамі быў разбіты сад. Тэрыторыя кляштара была абнесена драўляным парканам з брамамі. Гал. брама знаходзілася з боку вул. Койданаўскай. У 1797 пробашчам рэзідэнцыі быў ксёндз Раман Варанец, якога прыслалі з Нясвіжскага кляштара бенедыкцінцаў. Ён займаўся выхаваннем хлопчыкаў шляхецкага паходжання, якія страцілі бацькоў. Акрамя ксяндза ў кляштары быў яшчэ адзін манах. У 1832 кляштар быў закрыты, а яго маёмасць перададзена гарадскім уладам. Будынак касцёла выкарыстоўвалі як склад. Да сярэдзіны 19 ст. ўсе будынкі кляштара разбураны, тэрыторыя забудавана жылымі дамамі.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар бернардзінак.** Існаваў у *Менску* ў 1633—1853. Бернардзінкі з'явіліся ў горадзе ў 1630. Кляштар заснаваны троцкім ваяводам А.Слушкам, паводле фундацыі якога ў 1633 пабудаваны драўляны касцёл і жылы корпус. Слушка падараваў бернардзінкам маёнтак Гатаў Менскага пав., у якім былі 4 вёскі, 4 карчмы, 2 млыны, больш за 109 валок ворнай зямлі. У 1642—87 пабудаваны мураваныя касцёл Дабравешчання і корпус



Менскі кляштар бернардзінак.

кляштара. У гал. алтары касцёла знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай, пра які ў 1672 напісана кніга. Пасля пажару 1741 кляштарны комплекс рэканструяваны. Ён складаўся з касцёла, жылога корпуса, флігеля і гаспадарчых пабудоў. Мураваныя касцёл і прыбудаваны з ПнУ да яго 2-павярховы жылы корпус утваралі замкнёны ўнутраны двор. З ПнУ ад жылога корпуса знаходзіцца 2-павярховы лямус, з ПдУ — 3-павярховы флігель, накрыты вальмавым дахам. Дамінаваў у кампазіцыі будынак касцёла — 3-нефавая 6-слупная базіліка з 3-граннай алтарнай апсідай, да якой сіметрычна прыбудаваны прамавугольныя ў плане сакрысціі. Цэнтр. неф накрыты 2-схільным дахам, бакавыя нефы — 1-схільнымі. Гал. фасад з 2 шасціяруснымі вежамі (вышыня 34 м), завершанымі складанымі барочнымі купаламі, дэкарыраваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, праёмамі і нішамі з лучковымі і паўцыркульнымі завяршэннямі. Паміж вежамі размешчаны складаны па малюнку шчыт, упрыгожаны падвойнымі пілястрамі, карнізнымі паясамі. Бакавыя фасады раскрапаваны пілястрамі, карнізнымі паясамі, прарэзаны вял. лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя — крыжовымі. Інтэр'ер у 1-й пал. 19 ст. быў упрыгожаны 7 стукавымі алтарамі. Жылы корпус меў калідорную планіроўку. Яго паўд.-ўсх. фасад вылучаны 2 рызалітамі. Рытм фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы і пілястры. Кляштар пацярпеў ад вял. пажару горада 1835, але ў хуткім часе адноўлены. Каля 1842 у кляштары жылі 20 манашак-бернардзінак, 1 паслушніца, 1 кандыдатка і 2 манашкі ордэна тэрцыярак; у ім выхоўваліся таксама каля 20 дзяўчат, большасць з якіх страціла бацькоў. У 1853 кляштар скасаваны. У 1870 будынкі кляштара перададзены Мінскаму Свята-Духаваму манастыру. У 1926 комплекс былога М.к.б. пастановай СНК БССР узяты пад дзярж. ахову як помнік архітэктуры. Пасля Вял. Айч. вайны ў будынку касцёла знаходзіцца правасл. кафедральны сабор.

*Літ.*: Klasztory bernardyńskie w Polsce. W jej granicach historycznych. Kalwaria Zebzydowska, 1985.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар бернардзінцаў.** Існаваў у 1624—1864 у *Менску*. Заснаваны краснасельскім старастам А.Кенсоўскім, які ў 1624 перадаў бернардзінцам драўляны дом. У 1628 гэты фундуш зацверджаны віленскім біскупам А.Валовічам. У 1638 пабудаваны драўляны кляштар з касцёлам, які неўзабаве згарэў. У 1644 віленскі біскуп А.Война даў згоду на будаўніцтва новага мураванага кляштара з касцёлам. У 1656 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 комплекс кляштара моцна пацярпеў, пасля вайны адноўлены. У 1697 рас. стольнік П.Талстой, які наведаў Менск, адзначаў «небагаты» выгляд муравана-



Менскі кляштар бернардзінцаў.



га касцёла бернардзінцаў. Моцна пацярпеў ад пажараў у 1738 і 1740. У 1752 разбураны. У 1753 на ахвяраванні рэчыцкага харужага Я.Юдыцкага (8 тыс. злотых) пры кляштары заснавана брацтва св. Ганны. У касцельнай крыпце і на кляштарных могілках былі пахаваны прадстаўнікі вядомых шляхецкіх і магнацкіх родаў: Завішаў, Кенсоўскіх, Тышкевічаў, Хмараў і інш. У 18 ст. пры кляштары існавала школа філасофіі, дзе ў 1753—99 было 8—10 студэнтаў, 2 выкладчыкі. У 1830 у кляштары было 13 манахаў і 12 клерыкаў (навучэнцаў школы філасофіі). У 1864 кляштар скасаваны і прыстасаваны пад турму, дзе трымалі ўдзельнікаў паўстання 1863—64. Пазней будынкі кляштара перададзены ваеннаму ведамству.

Цэнтр. месца ў комплексе займаў касцёл св. Юзафа — 3-нефавая 6-слуповая базіліка. Цэнтр. неф непасрэдна пераходзіць у прэсбітэрый (накрыты агульным 2-схільным дахам) з 3-граннай алтарнай апсідай, умацаванай контрфорсамі. Гал. фасад — бязвежавы, мае хвалістую паверхню, падзелены пілястрамі на 3 часткі. Цэнтральная завершана фігурным шчытом з валютамі па баках, з шырокім уваходным парталам, над якім вял. акно з 3-лопасцевым арачным завяршэннем; у паўцыркульных нішах размяшчалася стукавая скульптура. Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны пілястрамі; вокны паўцыркульныя і лучковыя. Бакавыя нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, капліцы ў іх — крыжовымі скляпеннямі з ляпным дэкорам. Унутры знаходзіліся 9 алтароў, аздобленых жывапісам. З ПнУ да касцёла прыбудаваны П-падобны ў плане 2-павярховы будынак кляштара, рытм фасадаў якога ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы і пілястры. У кляштары знаходзіліся келлі манахаў, трапезная, б-ка. У комплекс кляштара ўваходзілі мураваны 2-павярховы флігель, гаспадарчыя пабудовы. Тэрыторыя кляштара была абнесена мураванай сцяной (захавалася часткова) з брамамі. З паўд. боку да касцёла былі прыбудаваны гандлёвыя рады. Касцёл у 1872 прыстасаваны пад архіў. Фасады рэстаўрыраваны ў 1984 (архітэктар Г.Босак). З 1992 у ім знаходзяцца Бел. дзярж. архіў навук.-тэхнічнай дакументацыі і Бел. дзярж. архіў-музей літаратуры і мастацтва.

*Літ.*: Klasztory bernardyńskie w Polsce. W jej granicach historycznych. Kalwaria Zebzydowska, 1985.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар дамініканцаў.** Існаваў у *Менску* ў 1-й пал. 17 ст.—1832. Заснаваны ў 1605 Соф'яй Слушкай. У 1615 ваявода менскі Пётр Тышкевіч перадаў дамініканцам пляц для пабудовы касцёла і кляштара. Пабудаваны ў стылі барока; у пач. і 2-й пал. 18 ст. рэканструяваны. Уваходзіў у ансамбль пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды), знаходзіўся на яе паўд.-ўсх. баку, абмежаваны вуліцамі Валоцкай (сучасная вул. Інтэрнацыянальная), Дамініканскай (сучасная вул. Энгельса) і Юр'еўскай (пл. каля 2 га). Комплекс уключаў будынкі касцёла і кляштара, гаспадарчыя пабудовы.

Дамінантай комплексу быў касцёл св. Томаша Аквінскага, закладзены каля 1622. Касцёл — прамавугольная ў плане 3-нефавая 6-слуповая базіліка з 2 капліцамі ў ПдЗ частках бакавых нефаў. Бязвежавы гал. фасад быў падзелены пілястрамі на 3 часткі: цэнтральная завяршалася хвалістым шмат'ярусным шчытом з невял. вежачкай, бакавыя — вял. сіметрычнымі купаламі на высокіх 8-гранных светлавых барабанах над капліцамі. Сцены касцёла былі расчлянёны пілястрамі, лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры, упрыгожаным фрэскавым жывапісам, знаходзіліся 13 разных драўляных алтароў. Цэнтр. неф быў перакрыты, цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя нефы — крыжовымі.



**Менскі кляштар дамініканцаў**. Рэканструкцыя і малюнак В.Сташчанюка.

Да прэсбітэрыя касцёла прылягаў 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак кляштара. Цэнтр. частка яго вылучалася рызалітам. Планіроўка калідорная. Памяшканні кляштара былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У паўн.-зах. частцы тэрыторыі знаходзіліся сад і драўляныя гаспадарчыя пабудовы (2 флігелі, свіран, стайня). Комплекс быў абнесены высокай агароджай з 2-вежавай 3-яруснай брамай-званіцай. У 1832 кляштар быў зачынены, у 1840-я г. перабудаваны пад каталіцкую семінарыю; пасля 1869 у ім размяшчаліся казармы. У 1950 разбураны.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар кармелітаў.** Існаваў у *Менску* ў 1703—98. Заснаваны менскім стольнікам і падстарастам Антоніем Тэадорам Ваньковічам, які ахвяраваў пляц на вул. Юр'еўскай (цяпер вул. Ракаўская) для будаўніцтва касцёла і кляштара, запісаў 9 тыс. злотых на маёнтку Глушынцы (ці Іс👉ач). У 1735 Я.Турчыновіч-Сушыцкі ахвяраваў кляштару некалькі пляцаў з будынкамі. У 1738 віленскі біскуп Міхал Зянковіч заснаваў пры кляштары брацтва Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай. У 1750 шатроўскі стараста Т.Ваньковіч падараваў кляштару 2 пляцы на вул. Юр'еўскай і фальварак Доўгая Ніва (ці Кальварыя) з цагельнямі, які меў 10 моргаў ворнай зямлі і комплекс жылых і гасп. пабудоў. Побач з фальваркам знаходзіліся кляштарныя могілкі з 36 капліцамі, якія ў 1795 пераўтвораны ў гарадскія парафіяльныя. У 1754 ксёндз Т.Стацэвіч ахвяраваў 4 тыс. злотых для будаўніцтва Кальварыйскага касцёла, пры якім у 1755 заснавана брацтва Панскай Мукі. У 18 ст. кляштару належала некалькі пляцаў у горадзе з камяніцамі і крамы на рынку. У 1763 дзякуючы намаганням менскага старасты М.Валадковіча было скончана будаўніцтва мураванага касцёла св. Марыі Магдалены ў стылі барока. Гэта была прамавугольная ў плане 3-нефавая базіліка. Цэнтр. неф пераходзіў ў невял. прэсбітэрый з паўкруглай алтарнай апсідай. Гал. бязвежавы фасад выходзіў на вул. Ракаўскую. Інтэр'еры храма былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі, яго ўпрыгожвалі 6 разных драўляных і мураваных алтароў. Гал. мураваны шмат'ярусны алтар меў багаты ляпны дэкор і быў упрыгожаны аптычнымі роспісамі з фігурай укрыжаванага Хрыста. У ім знаходзіліся абразы Найсвяцейшай Панны Марыі, св. Яна і



Марыі Магдалены. 4 бакавыя жывапісныя аптычныя алтары мелі абразы Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай, св. Юзафа, Тэклі, прарока Іллі. Пад касцёлам размяшчалася невял. мураваная крыпта. Побач з касцёлам знаходзіўся драўляны Г-падобны ў плане 1-павярховы будынак кляштара, а таксама мураваная 2-павярховая камяніца і комплекс драўляных гасп. пабудоў. У 1796 у кляштары было 5 манахаў. У 1798 ён скасаваны, а ў яго будынкі пераведзены *Менскі кляштар францысканцаў*, які знаходзіўся там да 1832. Пасля скасавання кляштара францысканцаў будынак касцёла выкарыстоўваўся пад склад. У 2-й пал. 19 ст. разбураны.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар рахітаў.** Існаваў у *Менску* ў 1752—1832. Заснаваны 3.8. 1752 паводле фундацыі менскіх бурмістраў Шышкаў, якія падаравалі рахітам пляц на вул. Койданаўскай побач з брамай і гарадскім валам для пабудовы кляштара і шпіталя, а таксама 750 злотых на ўтрыманне хворых. Адначасова ксёндз Т.Стацэвіч ахвяраваў кляштару 11 тыс. злотых і абраз св. Веранікі. У 1788 М.Ансялеўскі падараваў кляштару 2 сенажаці недалёка ад горада.У 18—пач. 19 ст. кляштару належалі некалькі пляцаў з пабудовамі ў горадзе, а таксама фруктовы сад каля вул. Нямігскай і вятрак пры дарозе на Смілавічы. Паводле візіты 1796 невял. 2-вежавы драўляны касцёл св. Роха гал. фасадам выходзіў на вул. Койданаўскую. Інтэр'ер храма ўпрыгожвалі 3 драўляныя разныя алтары. У гал. алтары знаходзіліся абразы св. Роха, Веранікі і Юзафа. На тэрыторыі кляштара знаходзіўся 1-павярховы драўляны шпіталь на 30 ложкаў, а таксама 3 драўляныя жылыя дамы (у адным з іх жыў ксёндз-капелан), комплекс гасп. пабудоў і агарод. Тэрыторыя кляштара была абнесена драўляным парканам, гал. брама размяшчалася з боку вул. Койданаўскай. У 1796 у кляштары знаходзілася 5 манахаў. У 1824 кляштар рахітаў разам з усёй маёмасцю далучаны да *Менскага кляштара баніфратраў*. Пасля 1832 большасць будынкаў кляштара разбурана, а яго тэрыторыю паступова забудавалі жылымі дамамі.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі кляштар францысканцаў.** Існаваў у *Менску* ў 1680—1832. Заснаваны падкаморым менскім Т.К.Друцкім-Горскім, які 19.10.1680 ахвяраваў манахам-францысканцам пляц для пабудовы кляштара. У 1681 стольнік менскі Т.Ваньковіч падараваў кляштару пляц на Татарскай вул. і 2 тыс. злотых. У 1689 новыя пляцы яму ахвяравалі Е.Кастравіцкі і С.Заблоцкі. У 18 ст. апекунамі кляштара былі А.Прушынскі, С. і К. Камоцкія, Ю.Світыч-Іліч і інш. Паводле візіты 1796 кляштар размяшчаўся на рагу вуліц Францысканскай (сучасная вул. Леніна) і Юр'еўскай. Драўляны, крыжападобны ў плане 2-вежавы касцёл св. Антонія гал. фасадам выходзіў на вул. Францысканскую. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 4 драўляныя алтары. У гал. алтары, які аздаблялі 12 металічных ліхтароў, знаходзіўся абраз св. Антонія. Астатнія алтары мелі абразы св. Францыска, Яна і Найсвяцейшай Панны Марыі. Г-падобны ў плане 2-павярховы мураваны будынак кляштара меў калідорную планіроўку і быў накрыты 2-схільным дахам; частка памяшканняў была перакрыта мураванымі скляпеннямі. У паўд.-зах. частцы тарэц даху быў закрыты трохвугольным франтонам, які аздаблялі скульптуры 2 анёлаў і рэльефная выява сонца з прамянямі. На тэрыторыі кляштара знаходзіўся комплекс жылых і гаспадарчых драўляных пабудоў, агарод, фруктовы дэкаратыўны сад. Тэрыторыя кляштара была абнесена мураванай і драўлянай агароджай з брамамі. Гал. брама знаходзілася перад уваходам у касцёл. У канцы 18 ст. ў кляштары было 5 манахаў. У 1798 яго перавялі ў будынкі былога *Менскага кляштара кармелітаў*, а драўляны касцёл перанесены на Кальварыйскія могілкі. Будынкі былога кляштара францысканцаў былі перададзены каталіцкай семінарыі, якая знаходзілася там да 1843. У 1843—69 тут знаходзілася каталіцкая кансісторыя. У 2-й пал. 19 ст. перабудаваны пад Мінскую гарадскую ўправу. У Вял. Айч. вайну пашкоджаны, у канцы 1940-х г. разбураны пры рэканструкцыі вул. Леніна.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**Менскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 14—18 ст. Цэнтр — г. *Менск*. Утвораны ў 14 ст. на тэр. *Менскага княства* пасля яго ўключэння ў склад ВКЛ і пераходу пад непасрэдны кантроль вял. князя. Да 1565 уваходзіў у *Віленскае ваяводства* як гіст. адзінка, якая не мела афіцыйна акрэсленых межаў і органаў кіравання. Тэрыторыя, якая належала непасрэдна да Менскага замка (*Менскае стараства*), была параўнальна невялікая. Асноўны абшар павета займалі ўладанні баяр, якія выходзілі на вайну ў складзе Менскай харугвы. У попісе войска ВКЛ 1528 прыгадваюцца 30 такіх баяр і 4 баярскія ўдавы, якія разам выстаўлялі 79 коннікаў. Побач з іх маёнткамі ляжалі буйныя княжацкія і панскія вотчыны (Бакшты, Вязынь, Койданава, Лошыца, Новы Двор, Саламярэчча, Смалявічы, Станькава, Старое Сяло, Тарасава і інш.), якія лічыліся экстэрытарыяльнымі ў адносінах да М.п. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 усе яны ўключаны ў М.п., тэрыторыя яго значна пашырана за кошт былых Заслаўскага і Лагожскага княстваў, дзярж. воласці Краснае Сяло, часткі Барысаўскай, Любашанскай і Свіслацкай валасцей на правым беразе р. Бярэзіна. З гэтага часу плошча М.п. складала каля 20,8 тыс. км$^2$. Павет увайшоў у *Менскае ваяводства*. Як і ў інш. паветах, устаноўлена сістэма службовых асоб: кашталян, падкаморы, харужы і інш., а таксама гродскі і земскі суды. Меў павятовую харугву чырвонага («гваздзіковага») колеру з выявай «Пагоні». Паводле попісу войска ВКЛ 1567 з маёнткаў на тэр. М.п. выстаўлялася каля 640 коннікаў, з іх каля 400 ставілі князі і паны (не лічачы уладанняў найбуйнейшых магнатаў — М.Радзівіла, кн. К.Астрожскага, М.Кішкі, кн. Ю.Слуцкага, склад маёнткаў якіх у попісе не прыводзіцца), астатніх — павятовая шляхта. У 1650 М.п. налічваў каля 26 тыс. дымоў, што адпавядае колькасці насельніцтва каля 175 тыс. чал. На працягу *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* павет неаднаразова быў арэнай баявых дзеянняў войска Рэчы Паспалітай з рас. вайскамі і ўкр. казакамі. У выніку колькасць дымоў на 1667 панізілася да 10,4 тыс., а колькасць насельніцтва — прыблізна да 67 тыс. чал. Новыя разбурэнні прынесла *Паўночная вайна 1700—21*. Аднаўленне гаспадаркі пачалося толькі ў 2-й чвэрці 18 ст. У 3-й чвэрці 18 ст. насельніцтва М.п. павялічылася да 200—




225 тыс. чал. М.п. уключаў гарады Менск і Барысаў, каля 45 мястэчак, з іх буйнейшыя — Беразіно-Любашанскае, Гайна, Заслаўе, Ігумен, Койданава, Лагойск, Маладзечна, Радашковічы, Ракаў, Свіслач, Смалявічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Менскі Петрапаўлаўскі манастыр**, праваслаўны мужчынскі манастыр у *Менску* ў 17—18 ст. Заснаваны ў пач. 17 ст. ў адказ на захоп менскіх правасл. цэркваў і манастыроў уніяцкім духавенствам. У 1611 Аўдоцця Статкевічава (з роду кн. Друцкіх-Горскіх) ахвяравала на будаўніцтва манастыра 3 пляцы на вул. Юроўскай. 52 шляхціцы і мешчаніны Менска і Менскага ваяв. ў 1612 спец. граматай абвясцілі сябе царк. старастамі і фундатарамі гэтага манастыра. У 1613 узведзены манастырскі комплекс. Спачатку ўсе будынкі былі, відаць, драўляныя. Царква, што захавалася, была, хутчэй за ўсё, пабудавана ў канцы 1720-х г. У 17—18 ст. манастыру належалі фальварак Пярэс-



па, 2 сенажаці ў Крупцы і на Камароўскім балоце (цяпер у межах горада), шэраг зямельных пляцаў у Менску. У 1624 кіеўскі мітрапаліт Іоў Барэцкі выдаў грамату на заснаванне пры М.П.м. жаночага манастыра (у 1635 пацверджана ў час наведвання Менска наступным мітрапалітам Пятром Магілай). У 1691 М.П.м. вытрымаў 3-дзённую аблогу мясц. католікаў і уніятаў. У 1742 драўляны жылы корпус і мураваная царква моцна пацярпелі ад пажару. Царква капітальна адрамантавана ў 1793—95 на сродкі, ахвяраваныя рас. імператрыцай Кацярынай II, і перайменавана ў царкву св. Кацярыны. У 1795 манастыр скасаваны, манахі ў 1795—99 пераведзены ў Мінскі Свята-Духаў манастыр, потым — у Пінскі Богаяўленскі манастыр; царква стала гар. саборам. У 1870—71 грунтоўна перабудавана: зроблены купал на квадратным пастаменце, пабудаваны новыя 3-ярусныя чатырохгранныя шатровыя вежы на гал. фасадзе. Перабудовы рабілі і ў канцы 19 ст.: быў зняты купал і зменены гал. фасад, да зах. фасада зроблена прыбудоўка. Мураваная 3-нефавая 6-слуповая базіліка з 5-граннай апсідай і 2 вежамі. Гал. фасад трохчасткавы: цэнтр. частка завершана высокім трохвугольным франтонам, над уваходам вял. паўцыркульнае акно; 2 бакавыя часткі дэкарыраваны неглыбокімі нішамі паўцыркульнага і прамавугольнага абрысу, фланкіраваны 3-яруснымі вежамі-званіцамі, якія завершаны шлемападобнымі купаламі. Над апсідай — франтон асн. аб'ёму з люкарнай. Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, паміж імі ў неглыбокіх нішах размешчаны спараныя паўцыркульныя вокны, якія асвятляюць бакавыя і цэнтр. нефы. Сцены завершаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры цэнтр. неф мае цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовыя. У канцы 1940-х г. будынак царквы прыстасаваны пад жыллё. У 1972—79 рэстаўрыраваны паводле праекта Мінскіх навукова-рэстаўрацыйных і вытворчых майстэрняў (архітэктар А.І.Курто). У будынку былі размешчаны Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР і Архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. З 1997 царква зноў дзейнічае.

*Літ.*: Афонский П. Триста лет в православии. Мн., 1913; Боровой Р.В. Обзор истории Минского Петропавловского монастыря в XVII—XVIII вв. // Христианизация Руси и белорусская культура. Мн., 1988.

***Расціслаў Баравы.***



Царква **Менскага Петрапаўлаўскага манастыра.**

**Менскі Святадухаўскі манастыр базыльян**, уніяцкі мужчынскі манастыр у *Менску* ў 17—канцы 18 ст. Заснаваны ў 1616 на пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды) ігуменам Менскага Узнясенскага манастыра Афанасіем Пакостай пры уніяцкай царкве Св. Духа, пабудаванай у 1598. Займаў тэрыторыю паміж сучаснымі пл. Свабоды, вул. Інтэрнацыянальнай і Энгельса. Комплекс уключаў будынак царквы, жылы манастырскі коплекс, гаспадарчыя пабудовы, быў абнесены мураванай сцяной; выкарыстоўваўся таксама ў абаронных мэтах. На ПнУ знаходзіўся *Менскі Святадухаўскі манастыр базыльянак*, які злучаўся з царквою крытай галерэяй.



**Менскі Святадухаўскі манастыр базыльян**. Рэканструкцыя і малюнак В.Сташчанюка.

Царква Святога Духа (закладзена пасля 1636) — 1-нефавы бязвежавы храм, накрыты высокім 2-схільным дахам (тарцы былі закрыты аднолькавымі па вышыні і канфігурацыі шчытамі) з 5-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад быў падзелены 4 пілястрамі карынфскага ордэра на 3 часткі. У цэнтральнай знаходзіўся партал, над ім — паўцыркульнае акно з ляпнымі ліштвамі, абапал якога былі плоскія нішы аналагічнай формы. Тарэц даху закрываў высокі 3-ярусны шчыт з валютамі, аддзелены ад сцяны прафіляваным карнізам. Ярусы шчыта шчыльна размешчаныя, расчлянялі пілястры, прамежкі паміж якімі і плоскія арачныя нішы былі запоўнены выявамі святых. Сцены бакавых фасадаў царквы праразалі вял. стральчатыя вокны. Унутры неф перакрыты крыжовымі скляпеннямі, якія апіраліся на масіўныя ўнутраныя контрфорсы. Інтэр'ер царквы быў упрыгожаны 5 драўлянымі і мураванымі разнымі алтарамі з жывапіснымі кампазіцыямі. У гал. алтары знаходзіўся *Менскі абраз Маці Божай*. На хорах знаходзіўся арган (майстар Людвіг Клімовіч, 1779). У 2-й пал. 18 ст. інтэр'еры рэканструяваны (майстры муляр Рыгор Сніджэцкі, мазаічнік Ян Будрэвіч). З



1795 правасл. Петрапаўлаўскі сабор; пасля пажару 1835 перабудаваны ў псеўдарускім стылі (1846—50, архітэктар Густаў Валерт), рэканструяваны ў 1895—97 (архітэктары Я.Марозаў, В.Струеў). Узарваны ў 1936.

З ПдУ да царквы прымыкаў 2-павярховы прамавугольны ў плане манастырскі корпус, асн. памяшканні якога былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі, калідоры — цыліндрычнымі. Да 1799 у ім знаходзілася рэзідэнцыя правасл. архіепіскапа, потым перабудаваны ў дваранскае вучылішча (архітэктар Ф.Крамер), якое ў 1803 пераўтворана ў мужчынскую гімназію. У 1852 корпус быў перабудаваны і прыстасаваны для размяшчэння дзярж.устаноў. Цяпер у будынку працуюць грамадскія арганізацыі і ўстановы.

*Уладзімір Дзянісаў, Людміла Іванова, Вольга Кукуня.*

**Менскі Святадухаўскі манастыр базыльянак**, уніяцкі жаночы манастыр у *Менску* ў 17—канцы 18 ст. Заснаваны ў 1641 на пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды) уніяцкім мітрапалітам Антоніем Сялявай. Першая ігумення Кацярына Сапега пералічыла манастыру 10 тыс. злотых. Першапачаткова манастыр быў размешчаны ў мураваных жылых дамах, збудаваных у 2-й пал. 16—пач. 17 ст. на паўн.-ўсх. баку Высокага рынку. Мураваны будынак манастырскага корпуса збудаваны каля 1650 (выкарыстаны скляпы і сцены першапачатковых будынкаў). 2-павярховы, П-падобны ў плане, меў высокі вальмавы дах з чарапіцы. Тарэц даху ў паўд.-ўсх. крыле быў у выглядзе фігурнага шчыта (перароблены ў 19 ст.). Планіроўка калідорная. На 1-м паверсе, перакрытым крыжовымі скляпеннямі, акрамя жылых пакояў былі трапезная, кухня, пакоі для гасцей і інш. Плоскасці сцен фасадаў пазбаўлены дэкору, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Манастыр быў злучаны з капліцай крытай галерэяй, якая праходзіла над высокай мураванай сцяной (мела 3-пралётны праезд, разбурана ў сярэдзіне 19 ст.). Прамавугольная ў плане капліца, перакрытая крыжовымі скляпеннямі і накрытая 1-схільным дахам, была прыбудавана ў 1650 да паўн.-зах. фасада царквы Св. Духа. (гл. ў арт. *Менскі Святадухаўскі манастыр базыльян*). Вуглы фасадаў капліцы аформлены лапаткамі, аконныя праёмы лучковыя. У інтэр'еры знаходзіўся вял. залачоны драўляны алтар з абразамі Маці Божай, св. Васіля і Іасафата. Хоры выходзілі ў інтэр'ер царквы. На ПнУ быў манастырскі двор, абнесены сценамі, дзе знаходзіліся драўляныя гаспадарчыя пабудовы. У 1795—99 — правасл. Петрапаўлаўскі манастыр. У 1-й пал. 19 ст. тут размяшчалася кансісторыя, з 2-й пал. 19 ст. — жылы дом (вул. Энгельса, 1).

*Літ.*: Иванова Л. Бывший монастырь базилианок в Минске // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2000. Вып. 3.

*Уладзімір Дзянісаў, Людміла Іванова.*

**Менскі Троіцкі манастыр**, жаночы базыльянскі манастыр у *Менску* ў 1635—1839. Заснаваны ў 1635 (паводле інш. звестак, у 1630) пры царкве Св. Тройцы (вядома з 15 ст.) жонкай менскага земскага пісара Мікалая Вяжэвіча Марынай з Яцынічаў, якая ахвяравала пляц на Троіцкім рынку для будаўніцтва манастыра (у 1636 гэты фундуш зацвердзіў кароль Уладзіслаў IV) і 4.12.1645 падаравала манастыру фальварак Крайск (потым называўся Грыневічы) у Менскім пав. У 1637 мітрапаліт Антоній Сялява выкупіў у менскіх мяшчан суседнія пляцы і далучыў іх да манастыра. У 1715 для пашырэння сваёй тэрыторыі манастыр самастойна набыў пляц за 1 тыс. злотых. Паводле візіт канца 18 ст. крыжова-купальная драўляная царква Св.Тройцы гал. фасадам выходзіла на Рыначную плошчу. Вонкавыя сцены царквы былі ўпрыгожаны паліхромнымі аптычнымі роспісамі з архітэктурным дэкорам. У інтэр'еры столь і сцены храма таксама ўпрыгожаны аптычнымі роспісамі. У гал. мураваным алтары знаходзіліся абразы Бязгрэшнага Зачацця і Найсвяцейшай Панны Марыі з Ісусам Хрыстом. 4 бакавыя алтары былі ўпрыгожаны аптычнымі роспісамі. Царква мела шмат каштоўных абразоў. На хорах быў усталяваны арган. Пад царквой была зроблена мураваная крыпта. Побач з царквой знаходзіліся манастырскія могілкі, за імі – фруктовы сад. На тэрыторыі манастыра знаходзіўся комплекс драўляных жылых і гасп. пабудоў. У 1799—1800 узведзены мураваны манастырскі будынак у стылі класіцызму (архітэктар Ф.Крамер), 2-павярховы, П-падобны ў плане, накрыты 2-схільным дахам. Сіметрычны гал. фасад быў раскрапаваны 3 рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі. Памяшканні перакрыты скляпеннямі. Інтэр'еры размешчанай на 1-м паверсе трапезнай былі ўпрыгожаны роспісамі. Тэрыторыя манастыра абнесена мураванай агароджай. На Рыначную плошчу выходзіла брама-званіца. Пры манастыры існавала школа (у пач. 19 ст. 22 вучаніцы), бібліятэка і архіў. У канцы 18 ст. ў манастыры было 23 манашкі. Пасля пажару 1809 манастырскія будынкі былі адноўлены (архітэктар М.Чахоўскі). У 1834 манастыр закрыты, а яго будынкі прыстасаваны пад шпіталь гарадской бальніцы (архітэктар К.Хршчановіч). Цяпер у ім размешчаны корпус 2-й Мінскай гарадской клінічнай бальніцы.

*Уладзімір Дзянісаў.*

**Менскі Узнясенскі манастыр**, праваслаўны, пасля уніяцкі мужчынскі манастыр у *Менску* ў канцы 15—пач. 18 ст. Заснаваны пры Узнясенскай царкве вял. княгіняй *Аленай Іванаўнай*, якая адпісала манастыру в. Трасцянец і надала яму статус архімандрыі. Першым архімандрытам быў духоўнік Алены Іванаўны Іона (у 1503—07 мітрапаліт кіеўскі). У 1635 прывілеем караля Уладзіслава IV манастыр далучаны да базыльянскага *Менскага Святадухаўскага манастыра*. Пазней належаў уніяцкаму ордэну базыльян. Статус архімандрыі скасаваны ў 1675 на базыльянскай кангрэгацыі ў Жыровічах. Прыкладна тады ж князі Горскія адабралі ў манастыра Трасцянец, а ўзамен далі ў трыманне Слабодку (каля 1699). Дакладная дата закрыцця невядома.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Менскі фарны касцёл**. Існаваў у *Менску* у 1508—1809 на Троіцкай гары. У дакументах 16 ст. згадваецца касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, пабудаваны ксяндзом Мікалаем Морыцам. Паводле інвентароў 1632 і 1636 драўляны крыжападобны ў плане будынак касцёла на каменным падмурку гал. фасадам выходзіў на Троіцкі рынак. Яго інтэр'еры ўпрыгожвалі 3 драўляныя разныя алтары. Асобна стаяла званіца з 4 званамі. Побач знаходзіўся будынак плябаніі, а таксама інш. збудаванні, у якіх размяшчаліся школа, шпіталь і касцельнае брацтва. Побач з



касцёлам знаходзіліся парафіяльныя могілкі. Тэрыторыя касцёла была абнесена драўлянай агароджай з брамамі. Касцёлу належала вял. колькасць пляцаў з пабудовамі, як на Троіцкай гары, так і ў інш. частках горада, а таксама карчма, плябанскі млын на р. Свіслач, сенажаці, лес і фальварак Чурылавічы (альбо Плябанец). Новы драўляны будынак касцёла пабудаваны ў 1716 (паводле інш. звестак у 1720) ксяндзом Каралём Пятром Панцяжыцкім. Ён у плане нагадваў кавалерскі крыж з вял. купалам у цэнтры. Да асн. аб'ёму былі прыбудаваны 4 капліцы. На гал. фасадзе былі 2 невял. вежы з залачонымі жалезнымі крыжамі. Інтэр'ер храма ўпрыгожвалі 5 драўляных разных алтароў, 2 з іх стаялі ў капліцах. У цэнтры гал. алтара знаходзіўся абраз Св. Тройцы, абапал якога стаялі залачоныя скульптуры св. Пятра і Паўла. На хорах размяшчаўся арган, пабудаваны ў 1745. У 1709 пры касцёле віленскі біскуп Бжастоўскі зацвердзіў брацтва Шчаслівай смерці. Будынак касцёла згарэў 14.8.1809, пасля чаго набажэнствы былі перанесены ў кафедральны касцёл на Высокім рынку і ў невял. драўляную капліцу на Залатагорскіх могілках.

***Уладзімір Дзянісаў.***

**менскія цэрквы**. Самым старажытным храмам *Менска* з'яўляецца недабудаваная царква на замчышчы мяжы 11—12 ст., вядомая толькі па археалагічных раскопках. Першыя ўпамінанні храмаў Менска ў пісьмовых крыніцах датуюцца канцом 15—пач. 16 ст. У канцы 16—пач. 17 ст. згадваецца больш як 15 прыходскіх і манастырскіх храмаў, што звязана не толькі з пабудовай новых цэркваў (мяркуючы паводле ўскосных даных, у Менску ўжо ў 13—15 ст. іх было 7—8), але і з павелічэннем колькасці пісьмовых крыніц, звязаных з гісторыяй і тапаграфіяй горада.

Галоўнай была саборная царква ў гонар Нараджэння Прасвятой Багародзіцы («Святая Прачыстая ў замку»), дзе ў 1500—1616 знаходзіўся *Менскі абраз Маці Божай*. Паводле крыніц канца 17 ст., «пасля інкурсіі маскоўскай ... ад царквы застаўся толькі пляц незабудаваны на замку.., які трэба агарадзіць і крыж паставіць». Царква знаходзілася, відаць, ва ўсх. частцы замка, паблізу ад недабудаванага каменнага храма 11—12 ст.

Да найб. ранніх храмаў Менска адносяцца 2 царквы на правым беразе Свіслачы — манастырская Узнясенская («царква Ушэсця Хрыстова пры манастыры і Манастырскай вуліцы», згадваецца ў 1600) і прыходская Св. Тройцы, якая дала назву гэтаму раёну горада. *Менскі Узнясенскі манастыр* знаходзіўся ў раёне сучаснага будынка Міністэрства абароны. Алена Іванаўна, жонка вял. кн. Аляксандра, запісала манастыру маёнтак Трасцянец пад Менскам. Інвентар 1579 апісвае драўляныя будынкі манастыра — царкву Узнясення Гасподняга з прыдзеламі Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы і св. Іаана, трапезную з царквой Пакрова Прасвятой Багародзіцы, келлі, гаспадарчыя будынкі. Каля 1600 менскім бурмістрам А.Маслянкам у манастыры пабудавана новая мураваная («белая») царква (магчыма, Узвіжання Чэснага Крыжа Гасподняга, аб якой упамінаецца ў дакуменце 1630). З 1613 манастыр уніяцкі, у 1635 аб'яднаны з *Менскім Святадухаўскім манастыром*. Вельмі моцна пашкоджаная ў час «інкурсіі маскоўскай» каменная царква знаходзілася, як і інш. пабудовы, у запусценні, але яе руіны яшчэ паказаны на некаторых планах Менска мяжы 18—19 ст.

Драўляная Троіцкая царква знаходзілася на мысе Траецкай гары, на тэрыторыі сучаснай 2-й клінічнай бальніцы. Паводле некат. звестак, у 16 ст. пры царкве існаваў невял. мужчынскі манастыр. Пасля таго як царква стала уніяцкай, пры ёй у 1630 заснаваны жаночы манастыр. У 1799—1800 пабудаваны новы мураваны манастырскі корпус, які пасля закрыцця манастыра ў 1834 аддадзены пад памяшканні гар. бальніцы.

Да самых старажытных менскіх храмаў адносілася царква святых Барыса і Глеба на Траецкай гары. Яна спыніла сваё існаванне ў 1-й пал. 17 ст., аднак месца храма, як і вул. Глебабарысаўская, было вядома жыхарам яшчэ ў 1-й пал. 19 ст. Храм і вуліца знаходзіліся на тэрыторыі квартала, названага цяпер Траецкім прадмесцем.

Да першых стагоддзяў існавання Менска, відаць, узыходзяць і храмы, якія часта ўпамінаюцца ў дакументах 16—18 ст.: царква св. Параскевы Пятніцы і манастырская царква св. Міколы. Паводле крыніц, яны тапаграфічна прывязваюцца да прасторы паміж вул. Татарскай і замкам, гэта значыць, да тэрыторыі, якая пазней стала звацца Татарскімі агародамі і дзе на планах канца 18—пач. 19 ст. паказана балота. Яшчэ ў канцы 19 ст. на гэтай тэрыторыі, на ПнЗ ад замчышча, можна было адшукаць у багністай пойме Свіслачы «два ўзвышэнні.., відаць, штучнага паходжання з бязладна раскіданымі вакол іх вялікімі камянямі-валунамі». Старажытнасць гэтых цэркваў падкрэсліваецца не толькі іх тапаграфічнай прывязкай да самага старажытнага элемента горада — замка, але і яўна язычніцкімі перажываннямі, звязанымі са святымі, у імя якіх цэрквы былі асвячоны (шанаванне святых Міколы і Параскевы Пятніцы было генетычна звязана з язычніцкімі культамі Вялеса і Мокашы). Абодва храмы, якія сталі уніяцкімі ў пач. 17 ст., былі разбураны ў час «інкурсіі маскоўскай», але ў канцы 17 ст. пачалі аднаўляцца (тым больш, што пры манастыры св. Міколы, паводле дакументаў канца 16—пач. 17 ст., знаходзіўся двор кіеўскіх мітрапалітаў). Далейшы лёс іх невядомы, аднак у 2-й пал. 18 ст. абодва храмы канчаткова зніклі, пакінуўшы па сабе толькі цьмяную памяць жыхароў горада. Так, у візіце Святадухаўскага уніяцкага манастыра, складзенай у 1784 (да гэтага манастыра перайшлі землі і маёмасць Мікольскага манастыра) паведамляецца, што «цяпер ... засталося за замкам толькі царкавішча з крыжам і сенажаццю, якая належыць мітрапаліту, частка сенажаці залітая вадой».

Такімі ж старажытнымі ўяўляюцца і «царква і манастыр святых бессярэбранікаў Казьмы і Дзям'яна», якія знаходзіліся на правым беразе Свіслачы, на стромкім плато паміж сучаснай пл. 8 Сакавіка і кафедральным саборам. Пры манастыры ў канцы 16 ст. існавала школа. Старажытнасць храма падкрэсліваецца і тым, што ў ранніх дакументах не толькі вуліца, на якой стаяў манастыр, але і ўся яго тэрыторыя («гара») носіць назву Казьмадзям'янаўская. У пач. 17 ст. манастыр стаў уніяцкім, затым быў прыпісаны да Святадухаўскага манастыра, а да сярэдзіны 17 ст. канчаткова знік. У візіце Святадухаўскага манастыра 1784 паведамляецца, што «на месцы Казьмадзям'янаўскага манастыра быў пабудаваны кас-



цёл каталіцкіх манашак-бернардзінак, астатняе месца ... занялі манахі баніфратры, пан Шэйба і іншыя жыхары горада, мяшчане і яўрэі, забудаваўшы яго хатамі, крамамі і іншымі будынкамі».

У дакументах канца 16 ст. ўпамінаюцца яшчэ 4 храмы, якія зніклі да 2-й пал. 17 ст.: Міхаіла Архангела; св. Ефрасінні Полацкай, Іаана Прадцечы; св. Юрыя (Георгія). Першыя 3 называюцца без якой-небудзь тапаграфічнай прывязкі, нават не вядома, на якім беразе Свіслачы яны знаходзіліся. Царква Міхаіла Архангела стаяла, магчыма, на Траецкай гары. Царква св. Юрыя знаходзілася ў «Татарскім канцы... на вуліцы Вялікай Юр'еўскай.., дзе пасля інкурсіі маскоўскай... пусты пляц» (сучасная вул. Ракаўская). На плане Менска 1793 яшчэ адна драўляная Георгіеўская (Юр'еўская) царква паказана ў канцы 2-й Юр'еўскай вул. (у раёне сучаснага Музея Вял. Айчыннай вайны). Дата пабудовы гэтай царквы — не раней за 18 ст., бо яна не згадваецца ў пераліку уніяцкіх храмаў Менска 1681. У 1800, ужо лядашчая, яна была перанесена на Старажоўскія могілкі, перайменавана ў імя св. Марыі Магдаліны і праз 30 гадоў разабрана.

У крыніцах мяжы 16—17 ст. упамінаецца драўляны храм Сыходжання Св. Духа (магчыма, з манастыром), які знаходзіўся на ўсх. баку сучаснай пл. Свабоды. У пач. 17 ст. тут пабудаваны комплекс каменных уніяцкіх манастыроў (гл. *Менскі Святадухаўскі манастыр базыльян, Менскі Святадухаўскі манастыр базыльянак*).

Драўляная царква Уваскрэсення Хрыстова знаходзілася «паміж вуліцамі Нямезска і Татарскай, па Уваскрэсенскай вуліцы» (сучасная вул. Вызвалення), у сярэдзіне квартала «на прыкметным, высокім узгорку» (тэрыторыя двароў сучасных дамоў № 6, 6-а, 8 па вул. Вызвалення). Існавала на гэтым месцы з 2-й пал. 16 ст. да сярэдзіны 19 ст. Неаднаразова аднаўлялася пасля пажараў (у апошні раз каля 1750), да 1839 заставалася апошняй уніяцкай царквой у горадзе, пасля была праваслаўнай, а ў 1856 разабрана.

У пач. 17 ст. ў Менску пабудавана некалькі новых правасл. цэркваў, у т.л. каменных. Захавалася толькі царква *Менскага Петрапаўлаўскага манастыра*. Факты з гісторыі іншых, іх датаванне, месцазнаходжанне і нават назвы асвятляюцца крыніцамі вельмі бедна і супярэчліва. Часцей за іншыя згадваецца царква «Праабражэння Гасподняга на замку» («Спас у замку»), пабудаваная ў 1626—30-х г. на 2 пляцах, ахвяраваных на пабудову правасл. царквы княгіняй Саламярэцкай. У 1681 гэтая царква ўпамінаецца ўжо як уніяцкая. Яна паказана на плане Менска 1793 у паўд. частцы замка непадалёк ад брамы.

Нияснай застаецца назва і датаванне каменнай царквы, паказанай на гэтым плане каля перакрыжавання Нямігі і Школьнай вул., г.зн. на тэрыторыі, занятай у канцы 18—пач. 20 ст. комплексам найстаражытных менскіх сінагог, т.зв. Школьным дваром. Архімандрыт Мікалай называе яе «Праабражэнскай царквой.., якая належала жаночаму Петрапаўлаўскаму манастыру.., каменныя сцены якой... паводле падання аддадзены за даўгі менскім яўрэям, якія ўладкавалі тут сваю сінагогу». Аднак, паводле даных пісьмовых крыніц, гэты манастыр быў пабудаваны ў 1619—20 каля мужчынскага Петрапаўлаўскага манастыра, на пляцы, ахвяраваным Ганнай Статкевіч з роду Агінскіх. Аб пабудове мураванага або драўлянага храма пры гэтым манастыры звесткі ў крыніцах адсутнічаюць. У 1787 у гэтым манастыры ўжо не было ніводнай манашкі, і яго маёмасць спрабавалі захапіць як «вымарачную» некаторыя шляхціцы.

Хутчэй за ўсё, «каменныя сцены.., аддадзеныя за даўгі яўрэям», належалі згарэлай паміж 1619 і 1622 «церкви Рождества Пречистой Богородицы на улице Немезской стоячей на кгрунте его княжецкой милости ... Яна Радзивилла», якую яшчэ ў 1613 ён абараняў ад захопу уніяцкім духавенствам. Відаць, гэта ж царква ўпамінаецца ў дакументах 1614 і 1622 («царква Прачыстай» і «царква Раства Прасвятой Багародзіцы») як пабудаваная на сродкі Радзівілаў (магчыма, на зямлі, што ім належала). Пры гэтай царкве ў 1614 Я.Радзівіл дазволіў «будавацца і жыць» манашкам жаночага манастыра (не ўпамінаецца, якога). У дакуменце 1622 адзначаецца, што царква згарэла, у сувязі з чым К.Радзівіл выдзеліў са сваіх лясоў неабходную колькасць «брусоў ... на пабудову» і загадваў нікому не перашкаджаць у будаўніцтве гэтай новай царквы замест згарэлай (хутчэй за ўсё, мураваная царква так і не была адноўлена).

У дакументах пач. 17 ст. ўскосна згадваюцца яшчэ 2 царквы: «месца.., дзе была старадаўняя царква Раства Хрыстова..., дзе цяпер татары сваю мячэць збудавалі»; а таксама «царква Святога Пакрова» (Пакрова Прасвятой Багародзіцы), аднак без пазначэння месца.

Пра архітэктурныя асаблівасці мураваных храма Узнясенскага манастыра і царквы Раства Багародзіцы можна меркаваць толькі па іх адлюстраваннях на планах Менска канца 18—пач. 19 ст. Абодва храмы ўяўлялі сабой невял. аднаапсідныя будынкі без вежаў на гал. фасадзе, магчыма, з цэнтр. купалам на ўзор віленскіх правасл. храмаў 16 ст. Драўляныя храмы Менска таксама вядомы па малюнках на плане горада 1793. Гэта, як правіла, аднаапсідныя базілікальныя будынкі, часам з намёкам на трансепт і, магчыма, з вежамі на гал. фасадзе (царква Троіцкага манастыра). Архітэктурнымі аналагамі драўляных цэркваў Менска 17—18 ст., відаць, могуць служыць драўляныя храмы цэнтр. Беларусі з віленскага альбома мастака Дз.Струкава.

*Літ.*: Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Мн. 1848; Николай, архимандрит. Историко-статистическое описание Минской епархии. СПб., 1864; Игнатов Р.Г. Археологическое обозрение церквей Минска // Минские губернские ведомости. 1877. № 34—36, 41—46, 50; 1878. № 4—5; Снитко А. Минск в XVII в. // Минская старина. Мн., 1909. Вып. 1; Афонский П. Триста лет в православии. Мн., 1913; Беларускі архіў. Т. 3. Менскія акты. Мн. 1930; Боровой Р.В. Историческая топография древнего Минска: Обзор источников и современное состояние проблемы // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 12.

***Расціслаў Баравы.***

**мера**, полісемантычная адзінка вымярэнняў (гл. *Меры*). У якасці самастойнай адзінкі ёмістасці сыпучых рэчываў (збожжа) М. ўжываліся ў 17—18 ст. на ўсх.-бел. землях ВКЛ, дзе прыраўноўвалася да 12 гарцаў шынковых або 24 гарцаў камісійных (скарбовых) ці 4 карцоў кракаўскіх.

***Яўген Анішчанка.***

**Мерацкае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1793—95. Цэнтр — г. *Мерач*. Створана Гарадзенскім соймам 1793 у складзе *Мерацкага павета*,



*Прэнскага павета* і *Эйшышкскага павета*. Тытул мерацкіх ваяводы і кашталяна атрымалі ваявода і кашталян скасаванага Смаленскага ваяводства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэр. М.п. на левабярэжжы Нёмана ў складзе Прусіі, на правабярэжжы Нёмана — у Рас. імперыі.

**Мерацкі касцёл** Ушэсця Дзевы Марыі. Пабудаваны ў 1443 у г. *Мерач* у тэхніцы гатычнай муроўкі па фундацыі 1434 Ягайлы. У 1648 было зменена яго аблічча ў сувязі з прыбудовай да гал. фасада нартэкса, які завяршаецца барочным франтонам. Тады, відаць, упершыню атынкавалі фасады. Работы праведзены паводле загаду і на сродкі Уладзіслава IV Вазы. Адзін з чарговых рамонтаў быў ажыццёўлены ў 1884. Касцёл складаецца з асн. аб'ёму прамавугольнай у плане формы, роўнавысокага з ім прэсбітэрыя, які заканчваецца шматграннай апсідай. Малітоўная зала падзелена чатырма 6-граннымі слупамі на 3 роўнавысокія нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Прасторава прэсбітэрый і асн. аб'ём злучаны паміж сабой 3 стральчатымі аркамі. Да паўн. сцяны вімы прымыкае сакрыстыя, павялічаная ў даўжыню, відаць, у 17 ст. У тоўшчы тарцовай усх. сцяны і паўд.-зах. вугла зроблены вінтавыя ўсходы. У храм вядуць дзвярныя праёмы ў гал. фасадзе і паўд. сцяне прэсбітэрыя. Сцены ўмацаваны шматпрыступкавымі контрфорсамі. Касцёл накрыты 2-схільным дахам. Уяўляе сабой сінтэз гатычнай і барочнай архітэктуры.

*Літ.*: Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1987. T. 1. P. 123; Jankevičienė A. Lietuvos periferijos gotikinių bažnyčių architektūros bruožai // Lietuvos Diadžoisios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002. P. 153—156.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Мерацкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1791—95. Цэнтр — г. *Мерач*. Вылучаны Чатырохгадовым соймам 1788—92 са складу Троцкага павета. У М.п. увайшлі Бартніцкая, Віжанская, Даўгоўская, Кальварыйская, Крэткапольская, Лаздзейская, Любоўская, Марцінканская, Матэльская, Мерацкая, Міраслаўская, Неманойская, Паявонская, Пунская, Святаязерская, Сімнаўская, Сярэйская і Урдамінская парафіі. У 1793 павет увайшоў у склад нова-



Мерацкі касцёл.

створанага *Мерацкага ваяводства* ў крыху зменених межах (далучана Аліцкая, Вяйсейская, Лейпунская і Лішкаўская парафіі, выключаны Бартніцкая, Кальварыйская, Крэткапольская, Марцінкаўская і Паявонская парафіі). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэр. М.п. на левабярэжжы Нёмана ў складзе Прусіі, на правабярэжжы Нёмана — у Рас. імперыі.

**Мерач** (літ. Мяркіне, Merkinė, цяпер мястэчка ў Варэнскім р-не, Літоўская Рэспубліка), горад у Троцкім пав., на р. Нёман. Вядомы з 14 ст. У 1377, 1391, 1394 і 1403 на М. нападалі крыжакі. У 1443 пабудаваны *Мерацкі касцёл*. 7.12.1569 М. атрымала магдэбургскае права і герб з выявай аднарога. У пач. 17 ст. заснаваны кляштар дамініканцаў. У 1648 у М. памёр кароль польскі і вял. князь літоўскі Уладзіслаў IV. У 1676 гетман М.К.Пац заснаваў у М. езуіцкую місію, якая ў 1755 пераўтворана ў рэзідэнцыю. З 1696 працавала езуіцкая школа, з 1772 яна ў падпарадкаванні Адукацыйнай камісіі, у 1776 перададзена дамініканцам. У 1742—46 езуіты пабудавалі драўляны касцёл Св. Крыжа. У 1776 М. пазбаўлены магдэбургскага права, але 1.8. 1791 яно вернута. З 1791 М. цэнтр *Мерацкага павета*, з 1793 цэнтр *Мерацкага ваяводства*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Merkinė. Vilnius, 1970; Merkinės istorijos bruožai. Vilnius, 2004.

**мернік**, мернічы, мерчы, геаметр, службовая асоба ў ВКЛ у 16—18 ст., якая займалася вызначэннем межаў і вымярэннем зямельных участкаў, з'яўлялася членам *падкаморскага суда*. Пасада М. распаўсюдзілася з пачаткам *валочнай памеры*. Звычайна М. назначалі з шляхціцаў, аселых у адпаведным ваяводстве або павеце (гл. таксама *Каморнікі*). Прыладамі працы М. былі шнуры, жэрдкі, металічныя ланцугі. Вял. адлегласці вымяралі крокам і з дапамогай астралябій з дыёптрамі, мензульных столікаў. У 18 ст. ўведзена пасада генеральнага М. ВКЛ (у 1726 ім быў гарадзенскі лантвойт К.Сямашка), пазней — М. ВКЛ. Пасля далучэння бел. зямель да Рас. імперыі (канец 18 ст.) мерніцтвам займаліся рас. землямеры, якія былі дзярж. службоўцамі. М. да часу скасавання Статута ВКЛ у 1840 выконвалі другарадныя дапаможныя абавязкі.

*Літ.*: Grzepski S. Geometria to jest miernicka nauka. Wrocław, 1957.

***Яўген Анішчанка.***

**Мерчынг** (Merczyng) Генрык (5.2. 1860, г. Згеж, Польшча—14.9.1916), гісторык, інжынер. Скончыў Варшаўскі ун-т (1882), Пецярбургскі ін-т інжынераў шляхоў зносін (1885), дзе і выкладаў (з 1904 праф. ардынарны). Ініцыятар электрыфікацыі чыгунак у Расіі. Займаўся гісторыяй Рэфармацыі ў Рэчы Паспалітай. Вывучаў дакументы ў архівах Вільні, Варшавы, Кракава і інш. Член Яднoты евангелічна-рэфармаванага касцёла ў Вільні. Па яго ініцыятыве сінод царквы пачаў выдаваць зборнікі дакументаў па гісторыі Рэфармацыі «Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae»; асабіста падрыхтаваў сшытак 1 серыі 1 (1911), куды ўвайшлі дакументы 16 ст. Аўтар прац пра кальвіністкую і арыянскую цэрквы ў ВКЛ, дзейнасць С.Буднага, па гісторыі педагогікі, дэмаграфіі. У творах М. шмат звестак з дакументаў, якія не захаваліся да нашага часу.

*Тв.*: Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913; Mapa Litwy z r. 1613 ks. Radziwiłła Sierotki, pod względem matematycznym i kartograficznym // Sprawozdania Towarzystwa Naukowego Warszawskiego. Wydz. 3. Warszawa, 1913.

***Валерый Пазднякоў.***

**меры** гістарычныя, адзінкі і сродкі вымярэння, якімі карысталіся да



ўвядзення метрычнай сістэмы. Стараж. і нар. М. адпавядалі прыродным аб'ектам і з'явам. Напр., вядомы народныя М. адлегласці «на вераб'іны скок», «на крок чалавека». Адлегласць вымяралі па гуку: роў вала чуваць на паўвярсты, крык чалавека — на вярсту, брэх сабакі — на 2 вярсты. Даўжыню вымяралі *пядзяй, локцем*, ступнёй, крокам, тапарышчам, прутком, шнурам і г.д., збожжа і вадкасці — гасп. посудам большменш пэўнага памеру: *бочкай*, каддзю, *вядром*, кублам, сявенькай. З часоў Полацкага княства для практычных вымярэнняў выкарыстоўвалі драўляныя М. даўжыні, каменныя і металічныя вагі (знойдзены ў час археал. раскопак). На Беларусі з часоў сярэдневякоўя і да 20 ст. выкарыстоўваліся М. даўжыні: *цаля, стапа, сажань, лінія, прут, шнур, гоня, вярста, міля*; М. плошчы: прут (квадратны), *морг, валока, лан*; М. сыпкіх рэчываў і вадкасцей; бочка, *гарнец, кварта, чвэрць, карэц*, асьміна, *салянка, мера, барыл*; М. масы: *камень, лашт, фунт, пуд, беркавец*, кантар, *лот, бязмен, грыўня*. Некаторыя тавары вымяралі спец. М.: кудзелю — каслаўкамі, мёд — *мядніцамі*, ліпаўкамі, лукнамі і інш. У ВКЛ існавала мноства мясц. разнавіднасцей М. У дакументах упамінаюцца 4 віды вядра для вымярэння мёду, больш за 40 мясцовых збожжавых М. (бочкі, карцы і інш.). Упершыню дзярж. рэгуляванне М. на Беларусі зафіксавана дагаворам Полацка з Рыгай (каля 1338—41), дзе полацкія М. вагі параўноўваліся з рыжскімі. Статут ВКЛ 1588 імкнуўся уніфікаваць М. ў дзяржаве і патрабаваў, «абы в месте нашом столечном Виленском и в кождом месте нашом паньства нашого Великого князства Литовского... и в домех гостинных, по дорогах, в торг и без торгов збоже всякое продавано мерою однакою равновано», г.зн. віленскаю бочкай, роўнай 4 кракаўскім карцам. Мясц. ўлады ў гарадах павінны былі клеймаваць узорныя гар. М. — бочку, паўбочкі, чвэрць бочкі. Падлягалі уніфікацыі мядніцы, кварты, гарцы, локці. Той, хто выкарыстоўваў несанкцыянаваныя М., падлягаў суду, аднак мясц. адзінкі вымярэння працягвалі ўжывацца. Пастановай сойма 1766 уведзены новыя суадносіны асн. М. Пасля далучэння ў канцы 18 ст. да Рас. імперыі ў Беларусі сталі пашырацца рас. М.

*Літ.*: Сементовский А.М. О мерах и весе, употребляемых в Витебской губернии. Витебск, 1874; Каралёў Х.І. Табліцы пераводу расійскіх мерак у метрычныя і наадварот. Мн., 1925; Депман И.Я. Меры и метрическая система. М., 1954; Молчанова Л.А. Народная метрология: (к истории нар. мер длины). Мн., 1973; Скурат К.У. Даўнія беларускія меры. Мн., 1974; Каменцева Е.И., Устюгов Н.В. Русская метрология. 2 изд. М., 1975.

***Сымон Барыс.***

**места**, назва *горада* у ВКЛ. Тэрмін вядомы з 13 ст., азначаў паселішча гар. тыпу, адрознае ад замка, у т.л. гарадскога. М. магло быць умацаванае (звычайна драўляна-землянымі збудаваннямі) або неўмацаванае. Другасныя кварталы, якія не былі ахоплены гар. ўмацаваннямі, або аддзелены ад іх прыроднымі перашкодамі, называліся прадмесцямі. Невял. гарадкі звалі *мястэчкамі*. Ад слова «М.» паходзіць назва гар. саслоўя *мяшчан*.

**Метрыка Вялікага княства Літоўскага** (ад лац. matricula канцылярская кніга), збор спецыфічных матэрыялаў (сшыткаў, кніг) велікакняжацкай канцылярыі ВКЛ 15—18 ст. з копіямі дакументаў, якія выдаваліся ад імя вялікага князя (гаспадара), *Рады Вялікага княства Літоўскага*, соймаў і падлягалі неабмежаванаму ў часе захоўванню. У



Прывілей Жыгімонта I Навагародку на магдэбургскае права. 1511. Фрагмент. Кніга № 9. РДАСА.



Прадажны ліст мешчаніна Я.Шубы Г.Мілевічу на пляц у мяст. Дабучын (Пружаны). 1571. Фрагмент. Кніга № 583. РДАСА.

склад Метрыкі ўваходзілі таксама некаторыя важныя пабочныя матэрыялы (пераклады ярлыкоў крымскіх ханаў, спісы з маскоўскіх дыпламатычных дакументаў і інш.), справаводныя матэрыялы (рэестры актаў, інвентары Метрыкі і інш.). Метрыка стала асновай велікакняжацкага, а пазней гал. дзярж. архіва ВКЛ і выконвала нотафікацыйныя (юрыд.-рэгістрацыйныя) функцыі. Выкарыстоўваліся ў юрыд. і даведачных мэтах усімі суб'ектамі права, найперш вярхоўнай уладай, дзярж. установамі, прывілеяванымі саслоўямі, мяшчанамі, магістратамі, царквой, этнарэлігійнымі абшчынамі. На аснове матэрыялаў Метрыкі па адпаведных запытах выдаваліся юрыдычна завераныя дакументы (копіі з копій).

Першыя гіст. назвы гэтага збору — «метрыкі», «кнігі метрыкі», «метрыка», з канца 16—пач. 17 ст. разгорнутая афіцыйная назва — «Метрыка Вялікага княства Літоўскага». З навук. пункту гледжання апошняя назва найб. слушная. Вызначэнне «Літоўская метрыка» па аналогіі з Кароннай метрыкай у Польшчы сустракалася ў мясцовых канцылярскіх кнігах, з сярэдзіны 17 ст. сіс-



Дароўны ліст княгіні Ганны, жонкі князя М.А.Сангушкавіча, царкве Спаса ў Дзярэчыне на землі і сялян. 1501. Кніга № 223. РДАСА.



Прывілей вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра М.Б.Храбтовічу на с. Кальчычы і Шчорсы Навагародскага пав. 1503. Фрагмент. Кніга № 6. РДАСА.

тэматычна ўжывалася ў варшаўскім архіўным справаводстве, замацавалася ў пецярбургскіх і маскоўскіх архівах, а таксама ў бел., рас., польскай і літ. гістарыяграфіі 19—20 ст. Гэты тэрмін традыцыйна выкарыстоўваецца і цяпер у замежных выданнях Метрыкі, а таксама для назвы некаторых сучасных архіўных фондаў, якія ўключаюць матэрыялы велікакняжацкай канцылярыі ВКЛ (побач з даволі значнай колькасцю інш. кніг) і захоўваюцца пераважна ў Расіі.

Як асноўны і самы багаты комплекс крыніц па гісторыі феад. Беларусі, Метрыка дае магчымасць даследаваць вядучыя кірункі ўнутранай і знешняй палітыкі на працягу больш як 3 стагоддзяў, змены ў адм.-тэр. і судовай сістэмах, заканадаўстве, рэальнае эканам. і грамадскае жыццё Беларусі, Літвы, Украіны, некаторых рускіх зямель у складзе ВКЛ, паліт., гандлёвыя, культурныя і інш. сувязі з Польшчай, Расіяй, Латвіяй, Эстоніяй і інш. краінамі. Прыкметнае месца ў Метрыцы займаюць пасольскія акты, інструкцыі, справаздачы аб перагаворах з Расіяй, Швецыяй, крымскімі ханамі, валашскімі ваяводамі, матэрыялы ваенна-абарончага характару, попісы войска ВКЛ, соймавыя дакументы і інш. З'яўляецца найб. рэпрэзентатыўнай крыніцай для вывучэння фарміравання і эвалюцыі буйной зямельнай уласнасці, дзярж. ладу, сац., этнарэлігійных, царк. адносін, саслоўнага статусу ўсіх слаёў феад. грамадства, перш за ўсё шляхты, у значнай ступені духавенства, мяшчанства, сялянства, розных форм гаспадаркі, гандлю, падаткаў, павіннасцей. Гэта асн. комплекс афіцыйных матэрыялаў для вызначэння дзярж. тэрыторыі, гіст. рэгіёнаў (Літва, Русь, Палессе, Падляшша і інш.), адм.-тэр. адзінак, вывучэння каланізацыйных і дэмаграфічных працэсаў, гісторыі ўсіх народаў і этнічных груп ВКЛ (беларусаў, украінцаў, рускіх, літоўцаў, палякаў, яўрэяў, татараў, цыганоў), населеных пунктаў, шляхоў зносін. Матэрыялы Метрыкі даюць магчымасць прасочваць генеалагічныя і маёмасныя сувязі набілітаваных родаў, пасады дзярж. і прыватнай адміністрацыі, служаць унікальным матэрыялам для вывучэння жыцця і дзейнасці выдатных дзярж., паліт. дзеячаў, асветнікаў, выдаўцоў (Ф.Скарыны, В.Цяпінскага, А.Волана, І.Пацея, Сімяона Полацкага, М.Радзівіла Чорнага, Л.Сапегі, І.Храптовіча і інш.). Метрыка — найбольшы па памерах, значнасці і храналагічным ахопе збор помнікаў духоўнай культуры, старабел. («рускай»), польскай, лацінскай моў, пісьмовасці. Яна пераканаўча сведчыць аб дзярж. і грамадска-публічных функцыях старабел. мовы ў ВКЛ да Люблінскай уніі 1569. Кнігі Метрыкі насычаны рэаліямі паўсядзённага побыту, звычаяў і традыцый розных пластоў грамадства, даюць уяўленне пра духоўнае жыццё, свядомасць, менталітэт насельніцтва ВКЛ.

**Гісторыя Метрыкі**. Фасцыкулы (сшыткі) і кнігі Метрыкі больш-менш сістэматычна вяліся з сярэдзіны 15 ст. амаль адначасова з афармленнем Кароннай метрыкі ў Польшчы. На думку некаторых даследчыкаў (бо бясспрэчных дакументаў не знойдзена), кнігі Метрыкі ў 15—пач. 16 ст. захоўваліся ў Троцкім замку пад наглядам гаспадарскага падскарбія, пазней, безумоўна, захоўваліся ў велікакняжацкім скарбе ў Вільні побач з фінансавымі сродкамі і інш. каштоўнасцямі. У велікакняжацкім архіве акрамя Метрыкі зберагаліся і арыгінальныя акты (міждзярж. дагаворы, прывілеі і інш.). Некаторыя з такіх актаў зрэдку сустракаюцца ў капійных кнігах Метрыкі, што было відавочным парушэннем устойлівай канцылярскай практыкі. Асобныя зборы арыгінальных актаў і інш. дадаткі нават зусім пабочнага характару часам адносілі да Метрыкі, калі яе атаясамлівалі з дзярж. архівам ВКЛ. Згодна з найб. раннім вопісам арыгінальных дакументаў велікакняжацкай канцылярыі, складзеным у 1570-х г., арыгінальныя акты захоўваліся ў 12 спец. сумках (саквах), былі пазначаны літарамі і размеркаваны па ваяводствах (за выключэннем агульназемскіх актаў). Усяго былі зарэгістраваны 674 акты, большасць пазней загінула. Загадваў кнігамі Метрыкі *канцлер*, а з часу заснавання пасады ў 1566 і *падканцлер* ВКЛ. Пасля размежавання канцылярый канцлера і пад-



Інвентар маёнтка Беразыня (Сакаўшчына) Я.А.Скіндзера, перададзенага за даўгі крэдытору тыкоцінскаму яўрэю А.М.Боску. 1537. Фрагмент. Арыгінал. Кніга № 583. РДАСА.





Прывілей-пацвярджэнне Стафана Баторыя фундацыі 1584 М.К.Радзівіла езуіцкага калегіума ў Нясвіжы. 1585. Кніга № 275. РДАСА.

канцлера Метрыка стала падзяляцца на вялікую і меншую. Некаторыя кнігі нярэдка вандравалі з канцлерам і службовым дзякам за каралём і вял. князем у Польшчу, вывозіліся ў гаспадарскія двары і замкі ў розныя землі ВКЛ, суправаджалі гаспадара ў ваенных паходах, выкарыстоўваліся на вальных соймах. Шляхта і інш. прывілеяваныя саслоўі былі зацікаўлены ў сталым забеспячэнні, пацвярджэнні і пашырэнні сваіх правоў і маёмасці пры ўсіх, нават экстрэмальных, умовах. Метрыка была практычным атрыбутам дзярж. ладу, судовай і прававой сістэм, дадатковым гарантам сац.-эканам. і паліт. правоў прывілеяваных саслоўяў, дзярж., царк. і грамадскіх ін-таў, канкрэтных асоб. Развіццё дзярж. справаводства ў ВКЛ у 2-й пал. 15—16 ст. суправаджалася колькасным ростам дакументацыі і пашырэннем відавой разнастайнасці дакументаў. Вярхоўная ўлада ВКЛ не мела разгалінаванага выканаўчага апарату з жорстка абмежаванымі абавязкамі службовых асоб. Нежаданне ўплывовых паліт. колаў умацоўваць вярхоўную ўладу адбівалася на магчымасцях, функцыях і статусе цэнтр. органаў, у т.л. на дзейнасці гаспадарскай канцылярыі. Адзін і той жа сакратар, пісар у адпаведнасці з храналогіяй паступленняў мог запаўняць даручаныя яму кнігі Метрыкі зусім рознымі актамі, пратаколамі, выпіскамі, удзельнічаць у судовых справах, дыпламатычных перагаворах, выконваць інш. даручэнні вял. князя. У сувязі з асаблівай дзярж. важнасцю і спецыфікай адносна рана былі адасоблены пасольскія кнігі. Відаць, толькі да сярэдзіны 16 ст. ў дзейнасці канцылярыі стаў панаваць больш выразны прынцып тэматычнага размежавання кніг. Перадатачны рэестр Л.Сапегі новаму канцлеру А.С.Радзівілу 1623 згадвае розныя тыпы кніг, прасочваецца і рэгіянальны падзел некаторых матэрыялаў. У 17—18 ст. асн. тыпамі кніг Метрыкі сталі кнігі прывілеяў, данін, пацвярджэнняў, цэнтр. дзярж. саслоўна-прадстаўнічых устаноў, у т.л. генеральных канфедэрацый. У Метрыку запісвалі разнастайныя па паходжанні, форме і змесце дакументы, што былі выдадзены вял. князем або ўпаўнаважанымі ім прадстаўнікамі вярхоўных органаў улады, кіравання і суда, а таксама прыватныя дакументы, якія па пэўных прычынах траплялі ў канцылярыі гэтых органаў і фіксаваліся імі. Назвы большасці дакументаў Метрыкі — *ліст, прывілей, вырак*, дэкрэт, выпіс — звычайна ўдакладняліся згадваннем асоб, інстанцый, ад імя якіх яны выдаваліся або кім зацвяр-



Прывілей Стафана Баторыя К.Стужынскаму на штотыднёвыя таргі і два кірмашы на год у маёнтку Калачычы Рэчыцкага пав. 1583. Фрагмент. Кніга № 69. РДАСА.



Інвентар Аршанскага замка і воласці. 1560. Фрагмент. Арыгінал. Кніга № 565. РДАСА.

джаліся, адрасатаў, вызначэннем асн. функцыі адпаведнага дакумента (ліст купчы, застаўны, мяноўны, прывілей на арэнду, маёнтак, мястэчка, магдэбургскае права і г.д.). У 17—18 ст. пашырылася выкарыстанне лацінскіх або польскіх назваў актаў і відаў афіцыйнай дакументацыі.

Інтэнсіўнае выкарыстанне кніг Метрыкі ўжо да канца 16 ст. значна папсавала іх. Адчулася і агульнае спарахненне паперы, выцвітанне чарніла. Пад кіраўніцтвам Сапегі каля 20 пісараў гаспадарскай канцылярыі ў 1594—1607 займаліся перапісваннем старых кніг Метрыкі. Мабыць, ім дапамагалі інш. адукаваныя асобы. Паводле загаду канцлера ў 1599 «хлапяты, што метрыкі перапісваюць», атрымалі за сваю працу вопратку і грошы. Згодна з пастановай сойма 1607 спец. камісія з сенатараў ВКЛ павінна была параўнаць перапісаныя кнігі са старымі і зацвердзіць іх. Асн. працу да 1621 выканала камісія на чале з сакратаром велікакняжацкай канцылярыі А.Дольскім і інстыгатарам ВКЛ М.Мархачам-Пузялеўскім. Пастанова сойма прадпісала таксама адасобленае захоўванне перапісаных кніг Метрыкі ад старых, якія засталіся ў велікакняжацкім замку ў Вільні і пазней амаль усе загінулі. Менавіта перапісаныя ў канцы 16—пач. 17 ст.



Тытульны ліст кнігі № 264 з дакументамі 1565—66. Копія канца 16 ст. РДАСА.

кнігі разам з пазнейшымі матэрыяламі Метрыкі выкарыстоўваліся ў гаспадарскай канцылярыі ў 17—18 ст. Яны склалі аснову сучасных архіўных фондаў Метрыкі. Для размяшчэння перапісаных кніг, а таксама канцылярый канцлера і падканцлера ў 1620—30-я г. былі выбраны камяніцы віленскіх мяшчан. Вял. Метрыка была ўладкавана ў дамах Я.Ключаты на Рыбным канцы рынку каля правасл. царквы Уваскрэсення Гасподняга і Г.Ланга на Шкляной вул., потым яшчэ ў суседніх дамах. Меншая Метрыка захоўвалася ў камяніцы Р.Кальзаноўскага на рынку. У сярэдзіне 17 ст. Метрыка моцна пацярпела. Пасля бітвы войска Рэчы Паспалітай з казакамі Б.Хмяльніцкага пад Зборавам у 1649 некаторыя кнігі Метрыкі, захопленыя ў абозах татарамі, прапалі. У 1655 напярэдадні заняцця Вільні рас. войскамі Метрыка была адпраўлена ў Прусію, некаторыя матэрыялы загінулі. Высветліць маштабы страт Метрыкі не ўдалося, хоць канстытуцыі соймаў 1667 і 1673 прадугледжвалі гэта. Чарговыя рэвізіі і ўпарадкаванні кніг Метрыкі, якая, відаць, ужо была перавезена ў Варшаву, адбыліся ў 1740-я г. Адначасова складзены т.зв. сумарыуш (рэгесты — кароткія выклады зместу дакументаў) кніг Метрыкі. Паводле пастановы Пастаяннай Рады ў 1777 у Варшаве пачалося перапісванне Метрыкі лацінскім алфавітам. Былі апрацаваны першыя 66 кніг, перапісаныя ў 29 тамоў. У 1786 пад наглядам каралеўскага сакратара, гісторыка А.Нарушэвіча Метрыка нанава пераплецена, атрымала дадатковыя рэестры і друкаваныя тытульныя лісты на лац. мове, а таксама новую нумарацыю кніг літарамі ўнутры тэматычна адасобленых аддзелаў.

Пасля падаўлення паўстання 1794 і ўзяцця Варшавы рас. войскамі Метрыка вывезена ў Гародню. Некаторыя кнігі Метрыкі яшчэ раней былі схаваны ў віленскім касцёле св. Казіміра. Папоўненая імі Метрыка праз Вільню і Рыгу была перавезена ў Пецярбург. Спачатку яе разам з інш. вывезенымі архівамі размясцілі пры Імператарскім кабінеце. Спецыяльна створаная камісія з прадстаўнікоў Сената і Калегіі замежных спраў у 1796—98 займалася разборам і ўпарадкаваннем гэтых збораў. Былі вылучаны найб. актуальныя на той час матэрыялы па гісторыі міжнар. зносін, іх перадалі ў Калегію замежных спраў, у т.л. 7 пасольскіх кніг з Метрыкі. Матэрыялы па ўнутраных справах Польшчы і ВКЛ былі падзелены на 4 асн. часткі: «А» — Каронная метрыка і некаторыя інш. архіўныя справы; «В» — «Літоўская метрыка»; «С» — кнігі і акты Пастаяннай Рады; «D» — друкаваныя выданні, гал. чынам юрыд. і заканадаўчага зместу. Асобную групу склалі арыгіналы актаў і некаторыя інш. дакументы. Усе гэтыя матэрыялы паступілі ў 3-і дэпартамент Сената. Справы «Літоўскай метрыкі», падзеленыя на ўзор Кароннай метрыкі на 5 аддзелаў, уключалі 223 кнігі запісаў, 308 судовых кніг, 2 рэестры спраў «за пячаткаю», 25 кніг перапісаў, 37 кніг публічных спраў, акрамя таго, 249 кніг навейшага справаводства, 30 спраў у папках і вязках з раскіданых папер. Друкаваныя кнігі і рукапісныя працы перайшлі ў Публічную б-ку (цяпер Рас. нац. б-ка). У 1799 прускім уладам былі перададзены асн. матэрыялы Кароннай метрыкі за выключэннем некаторых кніг запісаў (справы Падляшскага ваяв. 1550—52 і «рускіх» ваяводстваў 1569—1673), кніг перапісаў і публічных спраў (матэрыялы, што тычыліся ВКЛ і Галіччыны). З Метрыкі ВКЛ ў Прусію былі забраны 4 судовыя кнігі (падляшскія справы 1538—46), кніга перапісаў 1556 (матэрыялы размежавання ВКЛ з Прускім герцагствам), кніга публічных спраў (дыпломы пра пацвярджэнне дваранскага статусу 1775—92), 40 кніг з копіямі пратаколаў Пастаяннай Рады 1775—86, 29 кніг з копіямі лацініцай першых кніг Метрыкі, складзеныя ў 1778, 4 кнігі спісаў актаў розных часоў, падрыхтаваныя метрыкантам Р.Качаноўскім, і некаторыя інш. матэрыялы. Пасля Тыльзіцкага міру 1807 усе гэтыя кнігі перададзены Варшаўскаму княству і паступілі ў Агульны краёвы архіў (цяпер Гал. архіў стараж. актаў у Варшаве, ГАСА). У 1803—05 спец. ўстанова — Экспедыцыя Метрыкі далучаных правінцый — зноў перагрупавала матэрыялы Метрыкі. Былі вылучаны сродкі на ўтрыманне метрыканта з памочнікамі, якія ведалі стараж. мовы, адшуквалі патрэбныя акты і выдавалі даведкі. У 1808 большасць арыгінальных дакументаў, агульнадзярж. акты, міжнар. дагаворы перададзены ў Дэпо манускрыптаў Публічнай б-кі. Частка матэрыялаў трапіла ў Гал.



Прывілей Жыгімонта III перабежчыкам з Расіі пяці братам Хрыпуновым-Дубенкім на 123 валокі зямлі ў сямі сёлах Пуцкаўскага войтаўства Магілёўскай вол. ў часовае валоданне. 1604. Фрагмент. Кніга № 85. РДАСА.



Апошні ліст кнігі № 31
з дакументамі 1546—49.
Копія канца 16 ст. РДАСА.

штаб, у т.л. рэестр Метрыкі 1747—51. У 1835—37 кнігі Метрыкі зноў праверааны, пераплецены, прашнураваны і апісаны камісіяй мін-ва юстыцыі. Яны былі разбіты на 12 аддзелаў: 1. Кнігі запісаў; 2. Кнігі судовых спраў; 3. Кнігі публічных спраў; 4. Кнігі перапісаў; 5. Кнігі выпісаў; 6. Сігілата (рэгесты, завераных канцылярскай пячаткай актаў); 7. Кнігі Пастаяннай Рады і навейшага справаводства; 8. Інвентары (вопісы кніг Метрыкі, рэгесты); 9. Новыя кнігі (пераплеценыя зборнікі арыгінальных актаў розных часоў, вывезеныя з Варшавы); 10. Страраж. акты; 11. Радаводы; 12. Межавыя карты. Гэта сістэматызацыя ў значнай ступені паўтарала структуру Каронай метрыкі, частка матэрыялаў якой заставалася ў архіве Сената. Кнігі Каронай метрыкі з уласнай нумарацыяй трапілі ў першыя 4 аддзелы і захоўваліся разам з кнігамі Метрыкі ВКЛ. У 1875 мін-ва юстыцыі даручыла метрыканту Л.М.Зельвяровічу скласці дэталёвае паактавае апісанне Метрыкі. З-за яго смерці надрукаваны толькі 1-ы том («Литовская Метрика. Государственный отдел Великого княжества Литовского при Правительствующем Сенате: Грамоты и регесты из собрания «древних актов», писанных на пергаменте на литовско-русском, латинском, нижнегерманском, старочешском и польском языках», Петербург, 1883), астатнія яго матэрыялы загінулі ў час пажару. На падставе вопісу 1830-х г. метрыкант С.Л.*Пташыцкі* апублікаваў новы падрабязны інвентар Метрыкі («Описание книг и актов литовской метрики», Пецярбург, 1887). Пташыцкі пакінуў нязменнай структуру Метрыкі (аддзелы, нумары, серыі) і аднавіў, дзе мог, старую пецярбургскую нумарацыю кніг (варшаўская нумарацыя не захавалася). Апісаныя Пташыцкім кнігі складалі частку разнародных пецярбургскіх збораў, якія сваім паходжаннем былі звязаны з канцылярыямі ВКЛ і Польшчы. Афіцыйная назва гэтых збораў — «Метрыка далучаных правінцый» нярэдка падмянялася не зусім дакладнай назвай «Літоўская метрыка». Менавіта пад гэтым найменнем пецярбургскія зборы «далучаных правінцый» у 1887—88 дастаўлены ў Маскоўскі архіў мін-ва юстыцыі. Яшчэ ў 1828 сем згаданых пасольскіх кніг з Калегіі замежных спраў перайшлі ў Маскоўскі архіў замежных спраў.

У канцы 19—сярэдзіне 20 ст. ішоў працэс вяртання ў Польшчу кніг і матэрыялаў, якія рознымі камісіямі прызнаваліся каронымі. У 1895—98 у Варшаўскі гал. архіў перададзены 44 кнігі з аддзела публічных спраў Метрыкі. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 Кракаўскі каралеўскі архіў у 1923 атрымаў арыгінальныя акты Метрыкі, у т.л. 16 т.зв. літоўскіх страраж. актаў, большасць якіх тычыцца бел. шляхты і зямель Беларусі і Літвы. Пазней вывезеныя акты перадалі ў ГАСА. У Варшаву паступілі таксама некаторыя кнігі і цэлыя аддзелы Метрыкі, якія, на думку рэвіндыкацыйных камісій, былі звязаны паходжаннем з дзейнасцю польскіх канцылярый.

Нягледзячы на значнае скарачэнне фонду «Літоўская метрыка» больш чым за сто гадоў яго захоўвання ў Маскве (пераважна за кошт каронных матэрыялаў), ён застаецца асн. зборам кніг Метрыкі, што дайшлі да нас. У 1939 «Літоўская метрыка» пастаўлена на ўлік фондаў Цэнтр. дзярж. архіва страраж. актаў СССР (ЦДАСА; цяпер Рас. дзярж. архіў страраж. актаў, РДАСА) і атрымала парадкавы № 389. У 1952 уведзена агульная нумарацыя кніг і інш. матэрыялаў Метрыкі. Сучасны яе колькасны стан наступны (за аснову ўзята сістэматызацыя Пташыцкага): 1. Кнігі запісаў (№ 1—220; 2-я пал. 15—канец 18 ст.); 2. Кнігі судовых спраў (№ 221—522; 1506—1790); 3. Кнігі публічных спраў (№ 523—558; 1528—1792); 4. Кнігі перапісаў (№ 559—583; 1542—1779); тут зберагаюцца ўсе кнігі серыі «А» (т. зв. літоўскія) і адна каронная кніга з серыі «В», якая непасрэдна датычаць зямель ВКЛ (№ 583); 6. Сігілата: рэестр актаў 1645—48, выдадзеных з меншай канцылярыі ВКЛ падканцлера К.Л.Сапегі (кніга № 584), і рэестр актаў 1650—51 пад пячаткай сакратара С.Курча (кніга № 585); 9. Новыя кнігі; захаваўся зборнік сігілат меншай канцылярыі за 1782—86 (кніга № 586), які лагічна было б аднесці да 6-га аддзела. Аддзелы 5, 7—12 (акрамя кнігі № 586) фактычна ў ЦДАСА былі ліквідаваны. Напярэдадні 2-й сусветнай вайны ў ЦДАСА з Архіва мін-ва замежных спраў паступілі кнігі з умоўнай назвай «Пасольская метрыка ВКЛ з Маскоўскага архіва МЗС». Яны ўвайшлі ў фонд 389 (вопіс 1, кнігі № 587—601). Асобна вылучаны збор разрозненых актаў і фрагментаў, якім нададзены № 602—662. Кнігі Метрыкі ў РДАСА яшчэ не маюць сучасных абагульняльных дапаможных апісанняў. Даследчыкі карыстаюцца шматтомнымі пака-



Ліст-пасведчанне Жыгімонта III С.Бонару і яго жонцы Р.Валавічоўне аб тым, што пасля смерці канцлера ВКЛ А.Валовіча яны перадалі ўсе справы канцылярыі ВКЛ падканцлеру Л.Сапегу. 1588. Кніга № 74. РДАСА.

зальнікамі, складзенымі ў пач. 19 ст. метрыкантам С.Казелам (рэестры геагр. назваў, анатаванае апісанне кніг запісаў і кніг судовых спраў). Акрамя таго, у РДАСА ёсць некалькі абмежаваных пазнейшых дапаможнікаў.

Многія вернутыя ў Польшчу кнігі Метрыкі ўдалося інтэграваць у першапачатковыя архіўныя зборы. Матэрыялы, якія поўнасцю або часткова звязаны з дзейнасцю гаспадарскай канцылярыі ВКЛ, побач з пераважнымі па колькасці каероннымі кнігамі, сканцэнтраваны ў ГАСА у фондзе «Так званая Літоўская метрыка» (больш за 400 адзінак захоўвання). Усяго ў ГАСА больш за 500 адзінак захоўвання, якія раней былі зарэгістраваны ў інвентары Пташыцкага. У традыцыйнай структуры аддзелаў яны прадстаўлены наступным чынам: 1. Кнігі запісаў № IA26 (кніга «літоўская» падольская, 1541—48), MK81 (кніга каронная падляшская, 1550—52), IB33 (матэрыялы вял. і меншай каронных канцылярый; 1703—94); 2. Кнігі судовых спраў № IIA5 (1526—35), ARS21 (IIIB3 па нумарацыі Пташыцкага, 1719; кніга захоўваецца ў складзе Кароннай метрыкі ў серыі «Кнігі асэсарскага, рэляцыйнага, соймавага судоў»); 3. Кнігі публічных спраў № IIIA28 (прывілеі каралеве Боне на ўладанні ў ВКЛ; 1508—44), IIIB1—IIIB32 (1735—94; захоўваюцца ў аддзеле «Кнігі публічных спраў (канцылярскія) Кароннай метрыкі»), IIIB33—IIIB41 (1773—74; захоўваліся ў аддзеле кніг Генеральных канфедэрацый Рэчы Паспалітай, загінулі), IIIB42 (перапіска па справах ў Неапалітанскім каралеўстве і Барыйскім княстве; 1539—47), IIIB43 (зборнік актавых фармуляраў для сакратароў каралеўскай канцылярыі; 1564—1608); 4. Кнігі перапісаў № IVB2, IVB6—IVB9, IVB12, IVB17, IVB19, IVB22, IVB24, IVB26, IVB28, IVB29, IVB31, IVB33—IVB38, IVB41, IVB48—IVB52, IVB57, IVB58, IVB65, IVB66 (1545—1791); 5. Кнігі выпісаў № V1—V7 (15 ст.—1790); 6. Сігілата. Кнігі, адзначаныя ў інвентары Пташыцкага, засталіся ў РДАСА; 7. Кнігі Пастаяннай Рады і навейшага справаводства № VII1—VII4, VII6, VII7, VII11—VII137, VII139—VII201, дадатковыя кнігі з фондаў ГАСА № VII203—VII206 (1720—94); 8. Інвентары (кнігі рэестраў) № VIII1, VIII3, VIII5—VIII14,



Пацвярджэнне Яна II Казіміра прывілея 1636 Уладзіслава IV мешчаніну Я.Ключату на захоўванне актаў Метрыкі ВКЛ у яго мураваным доме ў Вільні. 1664. Фрагмент. Кніга № 132. РДАСА.

дадатковыя кнігі з фондаў ГАСА № VIII28, VIII37, VIII38 (1585?, 1667—1808); 9. Новыя кнігі № IX1—IX124, IX126—IX135, IX137, IX138, IX140—IX165, дадатковая кніга з фондаў ГАСА № IX166 (1549—1794); 10. Старажытныя акты № 4575—4971 (№ 1—387 па інвентары Пташыцкага; 1239—1792; захоўваюцца ў аддзеле «Збор пергаментных дакументаў»); 11. Радаводы № 1—39, 43—53 (1623—1775; захоўваюцца ў аддзеле «Генеалагічныя табліцы»); 12. Межавыя карты № 496—500 (2-я пал. 18 ст.; захоўваюцца ў аддзеле картаграфіі).

Да 2-й сусветнай вайны ў Польшчы ў інш. архівах і музеях захоўвалася яшчэ 31 кніга, без уліку інвентароў дакументаў і рэгестаў, якія аднесены даследчыкамі да спадчыны гаспадарскай канцылярыі ВКЛ. Цяпер іх засталося 16 у 13 комплексах. Асаблівую цікавасць выклікаюць кнігі Метрыкі ў зборах архіва Радзівілаў у ГАСА. У канвалюце з шыфрам ARII69/10 пераплецены кнігі з дакументамі часоў канцлерства М.Радзівіла за 1511—16 (копія канца 16 ст., падобная да кнігі запісаў № 9 РДАСА, але больш поўная) і 1516—18. У тым жа фондзе захоўваецца некалькі кніг Метрыкі з вял. канцылярыі ВКЛ часоў канцлерства Я.Ф.Сапегі з 1735—41 (шыфр ARII69/2, па інвентары Пташыцкага гэта кнігі запісаў № 169, 171, часткова 172). У ГАСА захоўваецца таксама «Кніга метрык з меншай канцылярыі ВКЛ» з актамі 1775—92 (шыфр ML220a), інвентар Гарадзенскага старства 1578 (частка, шыфр ASK56.G.8). Надзвычай каштоўная кніга Метрыкі належыць Нац. музею ў Кракаве (Б-ка Чартарыйскіх, шыфр MS2329). Паводле храналогіі дакументаў гэта самая стараж. кніга Метрыкі, больш поўная за аналагічны экземпляр кнігі запісаў № 3 з РДАСА. Кніга трапіла ў б-ку Чартарыйскіх у 1828, мяркуюць, што раней яна належала Радзівілам. У Кракаве захоўваюцца «Кнігі розных пасольстваў у Маскву і прынятых з Масквы» 1605—23 (MS2101) і 4 зборнікі з дыпламатычнымі дакументамі перагавораў з Масквой 1635—56, 1665—75 (MS2103, MS2112, MS2113, MS2104). Амаль усе гэтыя кнігі паходзяць з фамільнай калекцыі Бжастоўскіх.

У Польшчы захоўваецца большасць інвентароў, сумарыушаў, рэестраў дакументаў Метрыкі, якія дазваляюць рэканструяваць яе склад на працягу стагоддзяў і ўдакладніць яе лёс. Сумарыуш кніг Вял. Метрыкі, складзены пры канцлерстве Я.Ф.Сапегі камісарамі Я.Храпавіцкім і Я.Шадурскім у 1747—51, налічвае 16 тамоў і ахоплівае з лакунамі змест больш за 400 тамоў Метрыкі (ГАСА, шыфр SumML1—15).

Да службовых даведачных і прыкладных матэрыялаў Метрыкі даследчыкі адносяць фонд з 22 кніг задворнага асэсарскага суда ВКЛ з пратаколамі і рэгестамі 1765—94, які захоўваецца ў Дзярж. гіст. архіве Літвы. Асоб-



Судовы ліст Уладзіслава IV полацкаму магістрату аб выдачы пану Я.У.Невельскаму яго прыгонных сялян, што збеглі з маёнтка Івашкавічы ў Полацк. 1641. Фрагмент. Кніга № 320. РДАСА.



ныя кнігі і матэрыялы Метрыкі, іх пазнейшыя копіі, рэгесты, спісы сустракаюцца і ў інш. б-ках, перш за ўсё ў Расіі і Украіне, але гэтыя матэрыялы недастаткова вывучаны або невядомы даследчыкам. У Рас. нац. б-цы ў Пецярбургу захоўваецца адна з найб. ранніх пасольскіх кніг з матэрыяламі пераважна пра дачыненні з Масквой пач. 16 ст. (шыфр QIV70). Нямала матэрыялаў з кніг Метрыкі ёсць у фондзе П.П.Дуброўскага, у т.л. найб. ранні рэестр кніг Метрыкі 1623, фрагменты попісаў войска ВКЛ 16 ст. У Цэнтр. б-цы АН Літвы захоўваецца перапісаная ў канцы 16—пач. 17 ст. кніга Метрыкі з дакументамі пра размежаванне ВКЛ і Польшчы 1546 (шыфр F16—119). У Нац. б-цы Украіны імя У.І.Вярнадскага зберагаецца кніга вял. канцылярыі ВКЛ, складзеная ў 1736 (кніга запісаў № 169 па інвентары Пташыцкага?). Там жа ў зборах былой Шчорсаўскай б-кі І.Храптовіча захоўваюцца копіі 18 ст. з рэестраў кніг Метрыкі № 3—10 (шыфр І.5956).

**Публікацыі Метрыкі**. Асобныя дакументы і іх фрагменты з Метрыкі сталі з'яўляцца ў друку з канца 18 ст. Зводны паказальнік апублікаваных матэрыялаў Метрыкі адсутнічае. Публікацыі вял. цэласных або комплексных матэрыялаў Метрыкі пачаліся з 1830-х г., калі І.М.*Даніловіч*, М.А.*Абаленскі*, М.П.Пагодзін і Дз.М.Дубенскі выдалі 3 пасольскія кнігі з Метрыкі («Сборник князя Оболенского», Масква, 1838; «Книга Посольская Метрики Великого княжества Литовского», т. 1—2, Масква, 1843). 1-ы том выдання 1843 мае каштоўнае дапаўненне — падрабязны рэестр кніг Метрыкі, складзены ў 1817 В.Р.Анастасевічам паводле вопісу 1798. Асобныя тэматычна і храналагічна абмежаваныя зборы матэрыялаў Метрыкі выдалі Ф.І.*Леантовіч* («Акты Литовской метрики», т. 1, вып. 1—2, Варшава, 1896—97), А.*Прахаска*, С.А.*Бяршадскі* і інш. 4 тамы крыніц па гісторыі ВКЛ з фонду Метрыкі апублікаваў М.В.*Доўнар-Запольскі* («Документы Московского архива Министерства юстиции», Масква, 1897; «Литовские упоминки татарским ордам», Сімферопаль, 1898; «Акты Литовско-Русского государства», Масква, т. 2, 1897, вып. 1, 1899). Прыкметны зрух у публікатарскай працы ў пач. 20 ст. звязаны з дзейнасцю Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу, якая прыняла шырокі план цэласнага выдання стараж. кніг Метрыкі. У 1903—15 апублікаваны 4 фундаментальныя тамы ў серыі «Руская гістарычная бібліятэка» («Русская историческая библиотека»), гэта пераважна найб. раннія рэгесты і поўныя кнігі запісаў, судовых спраў, соймавых матэрыялаў 16 ст. Асабліва высокім археаграфічным узроўнем вылучаюцца т. 27 (кнігі запісаў № 3, 4 і часткова 5), т. 30 (акты агульнадзярж. значнасці, соймавыя матэрыялы), падрыхтаваныя І.І.*Лапай*, і т. 33 (попісы войска ВКЛ 1528, 1565 і 1567), падрыхтаваны Пташыцкім. У Беларусі вяршыняй археаграфічна-выдавецкай дзейнасці стаў 2-і том «Беларускага архіва» (1928) з матэрыяламі кнігі запісаў № 16 (акты Віцебскага і Полацкага гродскіх судоў 1530—39), складзены пад наглядам Дз.І.*Даўгялы*. Новы этап выдання кніг Метрыкі 16—17 ст. пачаўся ў 1980—90-я г. з утварэннем міжнар. рэдакцыйнай камісіі пры ўдзеле вядучых крыніцазнаўцаў па гісторыі Беларусі, Літвы, Расіі і Польшчы — Э.*Банёніса*, З.*Кяўпы*, С.*Лазуткі*, А.*Рахубы*, Г.Л.*Харашкевіч* і інш. Найб. поспехаў дасягнулі літ. і польскія даследчыкі, якія выдалі некалькі тамоў серыі «Літоўская метрыка».



ACTA
Metryki Kancellaryi Wielkiey
Wie. Kiego Xięstwa Litewskiego
za
Szczęśliwego Panowania Naiaśnieyszego Krola y
AUGUSTA TRZECIEGO.
Krola Polskiego Wielkiego Xiążęcia Litewskiego
Ruskiego Pruskiego Mazowieckiego Żmuydzkiego
Kijowskiego Wołhynskiego Podolskiego Podla
kiego Inflantskiego Smolenskiego Siewierskiego
y Czerniechowskiego a Dziedzicznego Xiążęcia
Saskiego y Elektora.
Za
Kanclerstwa Iasnie Wielmożnego Imci Pa
Jana Fryderyka Hrabi na Kodniu Czar
bylu Dorohostaiach, Koblinie, Kopylach i
...chowicach Kupinie y Sapieżynie Sapiei
Kanclerza Wielkiego W. X. L. Brzes
skiego etc Starosty
Przezemnie
Felixa Stanislawa Owsianego Actua
nego teyze Pieczęci Wielkiey W. X. L.
Sekretarza sporządzone.
ab
Anno MDCCXXXV Novembris IX Die
ad
Annum MDCCXXXVI Decembris II Diem

Тытульны ліст кнігі № 169 з дакументамі 1735—36. РДАСА.

**Вывучэнне Метрыкі.** Ніводная з вял. прац па гісторыі Беларусі, Літвы, Украіны, інш. зямель ВКЛ і самой дзяржавы ў цэлым не абыходзілася без матэрыялаў Метрыкі. Асабліва актыўна імі карысталіся гісторыкі М.К.*Любаўскі*, Лапа, Доўнар-Запольскі, І.А.*Маліноўскі*, Г.*Лаўмянскі* і інш. Асн. ўвага звярталася пры гэтым на выяўленне і выкарыстанне звестак Метрыкі для вырашэння адносна вузкіх праблем. Крыніцазнаўчы аналіз кніг Метрыкі заставаўся пераважна па-за межамі даследаванняў. Пачаткам навук. распрацоўкі знешняй і ўнутранай гісторыі Метрыкі можна лічыць працу Пташыцкага 1887. У 1-й частцы кнігі выкладзены агульныя звесткі пра Метрыку, яе гісторыя, характарыстыка яе 12 аддзелаў, некаторыя вынікі навук. і публічнага выкарыстання. Гал. частку працы займае падрабязны інвентар матэрыялаў Метрыкі з адпаведнай нумарацыяй унутры аддзелаў, пазначэннем аб'ёму, пачатковай і канцавой даты большасці кніг, сціслай характарыстыкі зместу, нярэдка з аднаўленнем загалоўка або самастойным найменнем адзінак захоўвання. Асн. заўвага, якую можна зрабіць і папярэднім пецярбургскім архіўным камісіям, — уключэнне ў Метрыку даволі значных матэрыялаў польскага паходжання.

Відным даследчыкам Метрыкі на навук. крыніцазнаўчым узроўні стаў М.Г.*Бережкоў*. Яго план даследавання прадугледжваў некалькі стадый. Была надрукавана доктарская дысертацыя Бережкова «Літоўская Метрыка як гістарычная крыніца. Ч. 1. Пра першапачатковы склад кніг Літоўскай Метрыкі да 1522 г.» (1946). На падставе даследавання некаторых арыгінальных, пераважна пазнейшых копій ён аднавіў першасны склад найб. ранніх 32 кніг Метрыкі 1440—1523. Бережкоў даказаў, што кнігі-копіі, перапісаныя ў канцы 16—пач. 17 ст., прыкметна адступаюць ад арыгіналаў, маюць прагалы, устаўкі, памылкі. 2-я і 3-я часткі працы Бережкова [Пра першапачатковы склад кніг Літоўскай Метрыкі 1523—1569 гг.», «Дзяржаўная канцылярыя Вялікага княства Літоўскага да Люблінскай уніі (гісторыя ўстановы — фондаўтваральніка Літоўскай Метрыкі»)] не былі канчаткова рэалізаваны.

Вельмі важную працу для навукоўцаў і практычнага выкарыстання Метрыкі падрыхтавала супрацоўніца Гар-



вардскага ун-та (ЗША) П.К.Грымстэд з польскім архівістам І.Сулкоўскай-Курасёвай: «Літоўская Метрыка» ў Маскве і Варшаве: Рэканструкцыя архіва Вялікага княства Літоўскага з анатаваным выданнем інвентара 1887 г., складзенага Станіславам Пташыцкім» (1984). Акрамя нарыса гісторыі Метрыкі, яе арганізацыі, характарыстыкі асн. тыпаў і відаў кніг, праца мае вял. комплекс дадаткаў, дзе прыведзены параўнальныя і сістэматызаваныя звесткі з розных малавядомых або цяжкадаступных вопісаў Метрыкі пачынаючы з 1623. Асаблівая ўвага аддадзена матэрыялам Метрыкі ВКЛ і часткова Кароннай метрыкі, што захоўваюцца ў Варшаве, Кракаве і Вільнюсе, у т.л. так званай Рускай (Валынскай) і Падляшскай серыям. У кнігу ўключана ўся праца Пташыцкага з новай нумарацыяй кніг Метрыкі ў РДАСА і пазначэннем шыфраў спраў, перададзеных ў Польшчу. Адзначаны таксама матэрыялы, што загінулі або не знойдзены.

Асн. прынцыпы крыніцазнаўчага і археагр. апісання кніг Метрыкі і іх выдання выпрацавалі рас. даследчыкі Харашкевіч і С.М.Каштанаў: «Метадычныя рэкамендацыі па выданні і апісанні матэрыялаў Літоўскай метрыкі» («Методические рекомендации по изданию и описанию материалов Литовской метрики», Масква, 1985). Для вывучэння гісторыі і зместу Метрыкі вял. значэн-



STANISLAUS AUGUSTUS REX
HÆC
MAGNI DUCATUS LITVANIÆ
ACTA PUBLICA
VICISSITUDINE TEMPORUM
DISPERSA COLLIGI
LACERA INNOVARI
CORROSA TRANSCRIBI
ATQUE EX LOCO SQUALLIDO
IN CONCLAVI ÆDIUM REIPUBLICÆ COLLOCARI
PROVIDENTIA AC BENEFICENTIA SUA
FECIT
A. D. MDCCLXXXVI.
CANCELLARIATU
ALEXANDRI PRINCIPIS SAPIEHA
PROCANCELLARIATU
JOACHIMI COMITIS CHREPTOWICZ
CURA & LABORE
ADAMI NARUSZEWICZ
MAGNI DUCATUS LITVANIÆ NOTARII

Друкаваны тытульны ліст 1786 кнігі № 562 з дакументамі 1549. РДАСА.



Protokul
Dekretow Oczywistych
Za Kanclerstwa
Sapiehy
Za Podkanclerstwa
Chreptowicza
Za Pisarstwa
a Za Regencyi

Тытульны ліст кнігі № 451 з дакументамі 1787. РДАСА.

не маюць і больш вузкія публікацыі бел., літ., латвійскіх, польскіх, укр. навукоўцаў. Актуальнай задачай застаецца інтэнсіфікацыя даследчай і выдавецкай дзейнасці, падрыхтоўка сучасных тэматычных, імянных, геаграфічных і інш. паказальнікаў да Метрыкі. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 165, 666.

*Публ.*: Dogiel M. Limites Regni Poloniae et Magni Ducatus Litvaniae ex originalibus et exemplis authenticis descripti. Vilnae, 1758; Сборник Муханова. М., 1836 (2 изд. СПб., 1866); Сборник князя Оболенского. № 1. Книга посольская Великого княжества Литовского 1506 г. М., 1838; Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529 tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od roku 1544 do roku 1563. Poznań, 1841; Книга посольская Метрики Великого княжества Литовского, содержащая в себе дипломатические отношения Литвы в государствование короля Сигизмунда-Августа (с 1545 по 1572 г.) / Изд. М.Оболенским, И.Даниловичем. М., 1843; Книга посольская Метрики Великого княжества Литовского, содержащая в себе дипломатические сношения Литвы в государствование короля Стефана Батория (с 1573 по 1580 г.) / Изд. М.Погодиным, Д.Дубенским. М., 1843; Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Т. 1—5. СПб., 1846—53; Skarbiec dyplomatów / Zebrał i w treści opisał I.Daniłowicz. T. 1—2. Wilno, 1860—62; Stosunki Polski z Tatarszczyzną od połowy XV w. T. 1. Stosunki z Mendli-Girejem chanem tatarów perekopskich (1469—1515). Akta i listy / Wydał K.Pułaski. Kraków; Warszawa, 1881; Русско-еврейский архив, Док. и материалы для истории евреев в России / Собрал и издал С.А.Бершадский. Т. 1—3. СПб., 1882—1903; Литовская метрика. Государственный отдел Великого княжества Литовского при Правительствующем Сенате: Грамоты и регесты из собрания «древних актов», писанных на пергаменте на литовско-русском, латинском, нижнегерманском, старочешском и польском языках / Сост. Л.М.Зельверович. Т. 1. Акты литовские 1487—1589. СПб., 1883; Materjały archiwalne wyjęte głównie z Metryki Litewskiej od 1348 do 1607 r. / Wyd. A.Prochaska. Lwów, 1890; Sapiehowie: Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1—3. Petersburg, 1890—94; Акты Литовской Метрики / Собр. Ф.И.Леонтовичем. Т. 1, вып. 1. 1413—1498. Варшава, 1896. Т. 1, вып. 2. 1499—1507. Варшава, 1897; Документы Московского архива Министерства юстиции / Подготовил М.В.Довнар-Запольский. Т. 1. М., 1897; Акты Литовско-Русского государства / Изд. М.Довнар-Запольским. Вып. 1 (1390—1529). М., 1899; Малиновский И.А. Сборник материалов, относящихся к истории панов рады Великого княжества Литовского. Томск, 1901; Русская историческая библиотека. Т. 20. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 2. Книги судных дел. Т. 1. СПб., 1903; Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книги записей. Т. 1. СПб., 1910; Т. 30. Литовская метрика. Отд. 1—2. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Юрьев, 1914; Т. 33. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Переписи войска литовского. Пг., 1915; Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. Книги Литовской метрики. М., 1915; Беларускі архіў. Т. 2 (XV—XVI стст.). Мн., 1928; Т. 3 (XV—XVIII стст.). Мн., 1930; Социально-политическая борьба народных масс в Белоруссии: Конец XIV в.—1648 г.: Сб. док. и материалов: В 3 т. Т. 1. Мн., 1988; Metryka Litewska: Księga Sigillat 1709—1719 / Opracował A.Rachuba. Warszawa, 1987; Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo wileńskie 1690 r. / Opracował A.Rachuba. Warszawa, 1989; Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo brzeskie litewskie 1667—1690 r. / Opracował A.Rachuba. Warszawa, 2000; Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo trockie 1690 r. / Opracował A.Rachuba. Warszawa, 2000; Metryka Litewska: Księga wpisów Nr. 131 / Opracował A.Rachuba. Warszawa, 2001; Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo nowogródzkie 1690 r. / Opracowali H.Lulewicz, A.Rachuba. Warszawa, 2002; Литовская



метрика. Кн. 5 (1427—1506). Книга записей 5 / Подготовил А.Банёнис. Вильнюс, 1994; Кн. 8 (1499—1514). Книга записей 8 / Подготовили А.Балюлис, Р.Фирковичюс, Д.Антанавичюс. Вильнюс, 1995; Кн. 225 (1528—1547). Книга судных дел 6 / Подготовили С.Лазутка, И.Валиконите и др. Вильнюс, 1995; Кн. 564 (1553—1567). Книга публичных дел 7 / Подготовил А.Балюлис. Вильнюс, 1996; Кн. 10 (1440—1523). Книга записей 10 / Подготовили Э.Банёнис, А.Балюлис. Вильнюс, 1997; Кн. 11 (1518—1523). Книга записей 11 / Подготовил А.Дубонис. Вильнюс, 1997; Кн. 224 (1522—1530). 4-я книга судных дел: (Копия конца XVI в.) / Подготовили С.Лазутка, И.Валиконите, Г.Киркене и др. Вильнюс, 1997; Кн. 1 (1380—1584). Книга записей 1 / Подготовили А.Балюлис, Р.Фирковичюс. Вильнюс, 1998; Кн. 25 (1387—1546). Книга записей 25 / Подготовили Д.Антанавичюс, А.Балюлис. Вильнюс, 1998; Кн. 3 (1440—1498). Книга записей 3 / Подготовили Л.Анужите, А.Балюлис. Вильнюс, 1998; Кн. 227 (1533—1535). Книга судных дел 8 / Подготовили И.Валиконите, С.Лазутка, Н.Шлимене и др. Вильнюс, 1999; Кн. 530 (1566—1572). Книга публичных дел 8 / Подготовили Д.Баронас, Л.Иовайша. Вильнюс, 1999; Кн. 51 (1566—1574). Книга записей 51 / Подготовили А.Балюлис, Р.Рагаускене. Вильнюс, 2000; Кн. 12 (1522—1529). Книга записей 12 / Подготовили Д.Антанавичюс, А.Балюлис. Вильнюс, 2001; Кн. 230 (1542). Книга судных дел 11 / Подготовили И.Валиконите, С.Вискантайте, Л.Степонавичене. Вильнюс, 2001; Кн. 531 (1567—1569). Книга публичных дел 9 / Подготовили Л.Анужите, А.Балюлис. Вильнюс, 2001; Кн. 532 (1569—1571). Книга публичных дел 10 / Подготовили Л.Анужите, А.Балюлис. Вильнюс, 2001; Кн. 15 (1528—1538). Книга записей 15 / Подготовил А.Дубонис. Вильнюс, 2002; Кн. 9 (1511—1518). Книга записей 9 / Подготовил К.Петкевич. Вильнюс, 2003; Кн. 229 (1540—1541). Книга судных дел 10 / Подготовили С.Лазутка, И.Валиконите и др. Вильнюс, 2003; Кн. 4 (1479—1491). Книга записей 4 / Подготовила Л.Анужите. Вильнюс, 2004; Кн. 52 (1569—1570). Книга записей 52 / Подготовили А.Балюлис, Р.Фирковичюс. Вильнюс, 2004; Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кн. 28 (1522—1552 г.). Кніга запісаў 28 / Падрыхтоўка тэкстаў да друку і навук. апарат: В.Мянжынскі, У.Свяжынскі. Мн., 2000; Кн. 44. Кніга запісаў 44 (1559—1566) / Падрыхтаваў А.І.Груша. Мн., 2001; Кн. 43 (1523—1560 г.). Кніга запісаў 43. (Копія канца XVI ст.) / Падрыхтаваў В.С.Мянжынскі. Мн., 2003; Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. Т. 2. «Выписка из посольских книг» о сношениях Российского государства с Польско-Литовским за 1547—1572 г. / Подготовил к печати Б.Н.Морозов. М.; Варшава, 1997; Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1 / Падрыхтавалі А.І.Груша, М.Ф.Спірыдонаў, М.А.Вайтовіч. Мн., 2003.

*Літ.*: Ясінскі А. Спроба крытычнага вывучэньня Кнігі Данін вялікага князя Казіміра // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та бел. культуры. Мн., 1928. Кн. 3. Працы клясы гісторыі, т. 2; Ptaszycki S. Summariusz i inwentarz Metryki Litewskiej // Archeion. Warszawa, 1930. [T.] 8; Jakubowski J. Archiwum państwowe W.X.Litewskiego i jego losy // Там жа. 1931. [T.] 9; Яго ж. Wiadomości o świeżo odzyskanym z Rosji sumarjuszu Metryki Litewskiej z lat 1747—51 // Ateneum Wileńskie. 1933. R. 8; Даўгяла З. Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі. Рыга, 1933 (перадрукавана: Спадчына. 1997. № 4); Лаппо И.И. (младший). Листы-записы в литовском праве XVI столетия. Tartu (Юрьев), 1935; Дорошенко В. Акты Литовской метрики как источники по истории Латвии // Изв. АН Латв. ССР. 1957. № 12; Яго ж. Estonica в актах Литовской Метрики // Изв. АН Эст. ССР. Сер. обществ. наук. 1958. № 4; Stašaitienė V. Iš lietuvos metrikos istorijos ir teismo bylu knygu turiinys // Lietuvos žemes ūkio akademijos mokslo darbai. Vilnius, 1959. T. 5; Хорошкевич А.Л. Литовская метрика как источник по истории Прибалтики и некоторые особенности методики ее изучения // Тез. докл. и сообщ. конф. по источниковедческим проблемам истории народов Прибалтики. Рига, 1968; Яе ж. К истории издания и изучения Литовской Метрики // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1973. [T.] 8; Katalog inwentarzy archiwalnych / Oprac. M.Pestkowska i H.Stebelska. Warszawa, 1971. S. 11—12; Sulkowska-Kurasiowa I. Metryka Litewska — charakterystyka i dzieje // Archeion. Warszawa, 1977. [T.] 65; Яе ж. Nieznane egzemplarze ksiąg Metryki Litewskiej z lat 1440—1518 // Kwartalnik historyczny. 1983. № 1; Ковальский Н.П. Источники по истории Украины XVI—первой половины XVII в. в Литовской метрике и фондах приказов ЦГАДА. Днепропетровск, 1979; Rachuba A. Księgi Sigillat Metryki Litewskiej // Przegląd historyczny. 1981. Z. 1; Wróbel-Lipowa K. Rewindykacje archiwaliów polskich z ZSRR w latach 1945—1964. Lublin, 1982; Абросимова С.В. Книги переписей Литовской метрики середины XVI в. как источник по истории городов Украины // Историографические и источниковедческие проблемы отечественной истории. Днепропетровск, 1985; Менжинский В.С. Книга записей Литовской Метрики № 13 как источник по истории землевладения в Белоруссии в первой половине XVI в. // Исследования по источниковедению истории СССР, XIII—XVIII вв. М., 1986; Яго ж. Метрыка Вялікага княства Літоўскага як крыніца па гісторыі землеўладання Беларусі (першая палавіна XVI ст.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 2; Grimsted P.K. Układ i zawartość Metryki Litewskiej // Archeion. Warszawa; Łódź, 1986 [T.] 80; Яе ж. What is and what was the Lithuanian Metryca? The contents, history and organization of the chancery archives of the Grand Duchy of Lithuania // Harvard Ukrainian Studies. 1982. № 3; Яе ж. Czym jest i czym była Metryka Litewska? (Stan obecny i perspektywy odtworzenia zawartości archiwum kancelaryjnego Wielkiego Księstwa Litewskiego) // Kwartalnik historyczny. 1985. № 1; Методические рекомендации по использованию документов Литовской Метрики XVI в. в курсе источниковедения отечественной истории / Сост. Н.П.Ковальский, Г.В.Боряк. Днепропетровск, 1987; Боряк Г.В. Проблеми видання Литовської і Волинської метрик // Українська археографія: сучасний стан та перспективи розвитку. Київ, 1988; Литовская Метрика: Тез. докл. межресп. науч. конф., апр. 1988 г. Вильнюс, 1988; Исследования по истории Литовской метрики: Сб. науч. тр. [Ч.] 1—2. М., 1989; Banionis E. Lietuvos Metrikos knygos: sąvoka, terminas, definicija // Lietuvos istorijos metraštis, 1988 m. Vilnius, 1989; Шохин Л.И. Из истории описания и издания документов Литовской метрики в Московском архиве Министерства юстиции в конце XIX в. // Исследования по археографии и источниковедению отечественной истории XVI—XX вв. Днепропетровск, 1990; Литовская Метрика: Исслед. 1988 г. Вильнюс, 1992; Archiwóm Główne Akt Dawnych w Warszawie: Informator o zasobie. Warszawa, 1992. S. 38, 39, 44; Pietkiewicz K. Metryka Litewska — księga wpisów za lata 1516—1518 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1995. [T.] 6; Яго ж. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995. S. 15—42; METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Т. 1—3. Мн., 2001—04.

***Георгій Галенчанка, Міхаіл Спірыдонаў* (бібліяграфія публікацый, ілюстрацыі).**

**«Метрыка Вялікага княства Літоўскага»,** шматтомная публікацыя Метрыкі ВКЛ, якая ажыццяўляецца археографамі Ін-та гісторыі НАН Беларусі з 2000. Апублікаваны кнігі запісаў 28 (у т.л. на кампакт-дыску і ў Інтэрнеце), 43, 44, кніга публічных спраў 1 («Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года»). Бібліяграфічнае апісанне выданняў серыі гл. ў канцы арт. *Метрыка Вялікага княства Літоўскага.*

**«Метрыка Літоўская»** (Metryka Litewska»), шматтомная публікацыя



кніг Метрыкі ВКЛ і скарба ВКЛ, якая ажыццяўляецца археографамі Польшчы з 1987. Апублікаваны кніга запісаў 131 (у выглядзе рэестраў і выпісак) і 155 («Кніга Сігілят 1709—1719»), у серыі «Рэестры падымнага Вялікага княства Літоўскага» — адпаведныя апісанні Віленскага ваяв. 1690, Берасцейскага ваяв. 1667—90, Троцкага ваяв. 1690, Навагародскага ваяв. 1690. Бібліяграфічнае апісанне выданняў серыі гл. ў канцы арт. *Метрыка Вялікага княства Літоўскага*.

**мецэнацтва** (ад імя Гая Цыльнія Мецэната, апекуна паэтаў Вергілія і Гарацыя ў 1 ст. да н.э.), юрыдычна афармлены інстытут прыватнай апекі над культурай і навукай, заахвочвання мастацкай дзейнасці, стварэнне пэўнага культурнага асяродка, які даваў магчымасць творчай актыўнасці мастака. М. як інстытут рымскай культуры, пад якім разумелася апека (патранаж) над асобным творцам — літаратарам, мастаком— было перанята, пашырана і канчаткова сфарміравалася як культ. традыцыя ў Італіі ў эпоху Адраджэння. Яно прыняло форму часовай падтрымкі, пакуль творца не скончыў сваю працу. Мецэнат з апекуна над творцай ператварыўся ў апекуна над творчасцю. У ВКЛ М. існавала ў выглядзе матэрыяльнай (пенсіі, ганарары, месца пры двары; А.Рымша, С.Рысінскі, Я.Радван, Д.Набароўскі, С.Будны), маральнай (пратэкцыя; М.Стрыйкоўскі), юрыд. (абарона інтарэсаў творцы перад законам; Ф.Скарына) дапамогі. У часы Рэнесансу ў ВКЛ з'явіліся такія формы М. як збіральніцтва мастацкіх калекцый, бібліятэк, стварэнне архіваў, музеяў. Найб. вядомыя зборы Алелькавічаў (Слуцк), Астрожскіх (Астрог), Пацаў, Радзівілаў (Біржы, Вільня, Койданава, Нясвіж), Сапегаў (Кодань, Дзярэчын, Ружаны), Хадкевічаў (Вільня, Берасце, Заблудаў), Храптовічаў (Шчорсы), Чартарыйскіх (Воўчын, Станькава), а таксама розныя тыпы фундацый, даравальных грамат на карысць як прыватных асоб, так і рэліг., грамадскіх, культ. устаноў, што спрыяла развіццю культуры.

М. як культ. з'ява пачало распаўсюджвацца ў ВКЛ з сярэдзіны 15 ст., пашырылася ў пач. 16 ст. Характэрнай рысай велікакняжацкага М. была яго пракаталіцкая накіраванасць. Шляхецка-магнацкае і мяшчанскае М. таксама мела рэліг. афарбоўку (апека над творцамі пэўнага веравызнання і падтрымка асветы, кнігадрукавання пэўных канфесій). Падтрымка з боку віленскіх мяшчан Ю.Адверніка, Я.Бабіча, Б.Онкава зрабіла магчымым выданне кніг Ф.Скарынай у Празе і Вільні. Пры падтрымцы Р.А.Хадкевіча ў Заблудаве была працягнута выдавецкая дзейнасць І.Фёдарава і П.Мсціслаўца. М.Радзівіл Чорны стаў ініцыятарам стварэння Берасцейскай і Нясвіжскай друкарняў, якія спрыялі станаўленню свецкага кнігадрукавання. Новы ўздым М. прыпаў на 2-ю пал. 18 ст. і быў звязаны з перамогай ідэй Асветніцтва. Асабліва вызначыліся ў гэты час гарадзенскі стараста А.Тызенгаўз (заснаванне ў Гародні кадэцкага корпуса, мед. акадэміі, інш. навучальных устаноў, тэатра, друкарні і інш.), Міхал Казімір Агінскі (тэатр, капэла і друкарня ў Слоніме), І.Храптовіч (бібліятэка ў Шчорсах).

*Літ.*: Łempicki S. Opiekunowie kultury w Polsce. Warszawa, 1965; Tomkiewicz W. Z dziejów polskiego mecenatu artystycznego w XVII wieku // Zródła do dziejów sztuki polskiej. Wrocław, 1952. T. 4; Скеп'ян А.А. Развіццё мецэнацтва ў Вялікім княстве Літоўскім // Весці НАН Беларусі. Сер. гум. навук. 2000. № 2.

***Анастасія Скеп'ян.***

**меч**, доўгая сякучая зброя з простым двухлязовым клінком даўжынёй больш за 60 см, адкрытай рукаяццю і крыжавінай. Быў адным з асн. відаў клінковай зброі ў ВКЛ да сярэдзіны 16 ст. У 13 ст. тут панавалі аднаручныя раманскія М. і іх мясц. імітацыі. З 14 ст. найб. папулярнасцю карысталіся вял. М. з паўтарарручнай ці двухручнай рукаяццю. Яны былі характэрны для цэнтр.-еўрап. рэгіёна, у адрозненне ад паўд.-зах. краін, дзе аддавалі перавагу «маламу» аднаручнаму М. Вялікія колюча-сякучыя М. выяўлены каля Гродна, у Крычаве, Кедайняй (Літва), Кіеве, на Валыні, Падоллі і г.д. Пераважна для колючых удараў прызначаліся паўтарарручныя М., знойдзеныя ў Старых Дарогах, Цеханаўцы (Польшча), каля Полацка, для сякучых — экзэмпляры з Луцка, Себежа (т.зв. «венецыянскія»), з могільніка Круміняй у Варэнскім р-не Літвы і г.д. Рэдкі для Цэнтр.-Усх. Еўропы аднаручны колючы меч выяўлены ў могільніку Куршай у Цяльшайскім р-не Літвы ў пахаванні 15 ст. Варыянтам М. з доўгім колючым клінком быў *канчар*, што ўжываўся кавалерыстамі. Пехацінцы ВКЛ маглі выкарыстоўваць адмысловыя кароткія ці вельмі доўгія (больш за 1,5 м) двухручныя М. Акрамя баявых, М. мелі і рэпрэзентатыўныя функцыі, таму часам багата аздабляліся. На клінках маглі змяшчацца клеймы вядомых майстроў ці вытворчых цэнтраў, напрыклад, т.зв. «пасаўскі воўк», а таксама сімвалічныя надпісы. Выкарыстоўваліся М. і ў катаўскай справе. Захаваўся М. віленскага ката 16 ст. Катаўскія М. вызначаліся масіўным клінком з абсечаным штыхам, што тлумачылася іх спецыфічнымі функцыямі. У ВКЛ М. выраблялісь мясц. майстрамі і завозіліся з-за мяжы, ужываліся М. ўстарэлых тыпаў. У 17 ст. М. канчаткова выйшлі з баявога ўжытку.

*Літ.*: Giosek M. Miecze środkowoeuropejskie z X—XV w. Warszawa, 1984; Kazakevičius V. IX—XIII a. baltų kalavijai. Vilnius, 1996; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni bialej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wshodu. Warszawa, 1982; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002; Яго ж. Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576. Мн, 2003; Яго ж. Меч з Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці // Беларускі гістарычны часопіс. 2003, № 2.

***Юрась Бохан.***

**мечаносцы**, гл. ў арт. *Інфлянцкі ордэн.*

**мечнік**, мечны, урад (пасада) у ВКЛ у канцы 15—18 ст. У час вял. урачыстасцей М. ВКЛ нёс перад манархам аголены меч як сімвал вайсковай улады. Існавалі таксама павятовыя М.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Мёзер** (Möser) Іаган Георг, архітэктар і будаўнік 2-й пал. 18 ст. Немец. З 1738 жыў і працаваў у Гародні (у 1765—74 на службе ў А.*Тызенгаўза*). Асн. работы ў Гародні: палац Тызенгаўза (у сааўтарстве), корчмы, дамы венгерскіх конных гвардзейцаў, жылыя дамы для іншаземных рабочых мануфактур. Выкладаў у школе будаўнікоў на Гарадніцы ў Гародні.

***Валерый Марозаў.***

**Мёры** (цяпер Міёры, горад, цэнтр Міёрскага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Браслаўскім пав., на беразе Мёрскага воз. Упершыню ўпамінаецца ў 1548. У попісе войска ВКЛ 1567 згадваецца як маёнтак, што належаў Р.Мірскаму. У 1621 уладальніца маёнтка

Н.Мірская заклала тут царкву. З 1644 у М. быў правасл. манастыр, які ў 1690 М.Мірскі перадаў уніятам.Паводле тастамента 1680 Сімяона Полацкага ён ахвяраваў на карысць манастыра грошы. У 1691 пабудаваны касцёл. У 18 ст. існавала 5 маёнткаў пад назвай М, якія належалі Мірскім, Перасвет-Солтанам, Беліковічам, Клотам, Зяновічам, Пуцятам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рэчы Паспалітай.

***Вітальд Ермалёнак.***

**Міёры**, горад у Рэспубліцы Беларусь, гл. *Мёры*.

**міліцыя** (ад лац. militia войска, ваенная служба, вайна), 1) апалчэнне ў магнацкіх гарадах ВКЛ у 16—18 ст. Вяла паходжанне ад гар. дружын Стараж. Русі. Прызначалася для абароны горада пры аблозе. Пытанні арганізацыі, кіравання і забеспячэння М. вырашаліся гар. *магістратам* і *войтам*. Кожны мешчанін быў абавязаны мець зброю і быў запісаны ў пэўную сотню, якой выдзяляўся для абароны пэўны ўчастак гар. умацаванняў. Сотні падзяляліся на дзесяткі, а ў буйных гарадах зводзіліся ў палкі. Напр., у Слуцку ў 1655 было 18 соцень (4 палкі, 1800 чал.); у Копысі ў 1635 — 5 соцень, у Шклове ў 1643 — 11 соцень. Часам гар. М. мела артылерыю і кавалерыю (гл. *Конныя мяшчане*). У мірны час М. несла варту на гар. брамах, пажарную ахову, выкарыстоўвалася ў фіскальных мэтах (збірала падаткі і паборы). Рэгулярна (звычайна штогод) праводзіліся перапісы (пошісы) гар. М., часта пры гэтым арганізоўваліся спаборніцтвы па стральбе і ваен. вучэнні.

2) Прыватнае войска магнатаў у Рэчы Паспалітай у 18 ст. Узнікла ў сувязі з крызісам цэнтр. улады ў дзяржаве. Стваралася з сялян, мяшчан, *выбранцаў*, *зямян*, шляхты. Так, Г.Ф.Радзівіл на аснове гарнізонаў Белай, Слуцка і кавалерыі стварыў уласную М., якая ў 1753 налічвала 1854 чал. Слуцкі гарнізон М. складаўся са штаба, артылерыі, роты мушкецёраў, 4 пяхотных рот, янычарскай харугвы, роты выбранцаў (да 700 чал.). У 1719 М.К.Радзівіл стварыў уласную М., якая ў 1754 у 18 гарнізонах у розных маёнтках налічвала 234 чал. Яго сын К.С.Радзівіл Пане Каханку павялічыў М. да 2130 чал. (1789). Для радзівілаўскай М. былі складзены статуты — «Артыкулы вайсковыя», для падрыхтоўкі камандзіраў адчынены *Нясвіжскі кадэцкі корпус*. У мірны час М. выконвала некаторыя гаспадарчыя задачы: ахова княжацкіх палацаў, гаспадарчых аб'ектаў, грузаў, дастаўка пошты, арганізацыя палявання, падтрымка грамадскага парадку. М. кн. Г.Ф.Радзівіла ўдзельнічала ў задушэнні *Крычаўскага паўстання 1743—44*, у баях на баку *Барскай канфедэрацыі* (пад Нясвіжам у 1768, пад Беластокам у 1769). У 1791 радзівілаўская М. ўключана ў войска ВКЛ як 8-ы рэгімент (полк).

*Літ.*: Lech M.J. Milicje Radziwiłłów jako oręż feudałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki. Białystok, 1962. T. 3; Hryckiewicz A. Milicja miast magnackich na Białorusi i Litwie w XVI—XVIII w. // Kwartalnik historyczny. 1970. № 1; Pasztor M. Milicje magnackie Radziwiłłów: Michała Kazimierza «Rybeńki» i Karola Stanisława «Panie Kochanku» — skład, organizacja, funkcje // Trudne stulecia: Studia z dziejów XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**міля** (ад лац. mille тысяча, milia passum тысяча двайных крокаў рымскага легіянера), мера адлегласці. Шырока ўжывалася да ўвядзення метрычнай сістэмы мер; найб. распаўсюджаныя М.: рымская (1,478), англійская (звычайная, 1,524 км), лонданская (статутная, 1,609 км), пруская (7,533 км), расійская (7 вёрст, або 7,468 км). Марская М. адпавядае 1 мінуце дугі мерыдыяна (1, 852 км), геаграфічная М. (нямецкая, велікапольская, выкарыстоўвалася таксама на Падляшшы і ВКЛ, дзе складалася з 12862 *локцяў*) роўная 1/15 градуса дугі экватара (7,420 км). У ВКЛ ужывалася літоўская М., якая ў 16—17 ст. складалася з 300—315 *шнуроў*, або 13230—16300 локцяў. У 18—19 ст. літоўская М. адпавядала 7,289 расійскім вёрстам (7,777 км).

*Літ.*: Салищев К.А. Картоведение. 2 изд. М., 1982; Шостьин Н.А. Очерки истории русской метрологии, XI—начало XX в. 2 изд. М., 1990; Dunin-Wąsowicz A. Pomiary gruntu w Koronie w XVI—XVIII wieku. Warszawa, 1994.

***Яўген Анішчанка.***

**Міндоўг** (1195?—1263), заснавальнік і першы вялікі князь ВКЛ. Паводле крыжацкіх крыніц, быў сынам аднаго з вярхоўных уладароў Літвы пач. 13 ст. (магчыма, Даўгерда, неаднаразова названага ў хроніцы Генрыха Латвійскага). Упершыню ўпамінаецца разам са старэйшым братам Даўспрункам сярод «старшых князёў» Літвы, якія падпісалі *дагавор 1219* з Уладзіміра-Валынскім княствам. Да сярэдзіны 1230-х г. М. дасягнуў аднаасобнай вярхоўнай улады ў Літве або значнай яе часткі. Каля 1238 «Литва Мендога» знаходзілася ў саюзных або васальных адносінах з галіцка-валынскім кн. *Данілам Раманавічам*, які выкарыстоўваў яе ваенную моц супраць кн. Конрада Мазавецкага. У 1245 М. зноў дапамагаў Данілу ў яго барацьбе з прэтэндэнтамі на Галіцка-Валынскае княства. Неўзабаве ён далучыў да сваіх уладанняў Навагародскую зямлю і ўладкаваў свайго стаўленіка ў Полацку, што фактычна дало пачатак утварэнню ВКЛ. Пасля гэтага адносіны М. з Данілам сталі варожымі. У познім Густынскім летапісе (17 ст.) паведамляецца пра хрышчэнне М. ў праваслаўе ў 1246, аднак гэта не пацвярджаецца больш ранні́мі крыніцамі. Каля 1248 М. захапіў уладанні сваіх пляменнікаў Эдзівіда і *Таўцівіла*, што выклікала іх мяцеж, да якога далучыліся жамойцкі кн. Выкінт, Даніла Раманавіч, Лівонскі ордэн і Рыжскае арцыбіскупства. Каб разбурыць гэту небяспечную кааліцыю, М. пайшоў на прамыя зносіны з Рымам, у канцы 1250 або пач. 1251 прыняў каталіцтва, а ў 1253 каранаваўся ў Навагародку каралеўскай каронай, якую даслаў рымскі папа Інакенцій IV. Гэта дазволіла М. выйсці з вайны з мінімальнымі стратамі, хоць ён быў вымушаны часова аддаць крыжакам частку Жамойці, а сыну Данілы Раману — Навагародак (на ўмовах васальнай залежнасці ад М.).



**Міндоўг**. Дрэварыт. 16 ст.



Каля 1254 М. выдаў сваю дачку замуж за *Шварна*, другога сына Данілы. Каля 1257 супраць Літвы быў арганізаваны сумесны паход мангола-татарскага ваяводы Бурундая і галіцка-валынскіх князёў, аднак М. здолеў не толькі захаваць уладу, але і аднавіць поўны кантроль над Новагародскай зямлёй. У 1261 ён разарваў мір з Лівонскім ордэнам і адмовіўся ад каталіцтва. У канцы жыцця карыстаўся неабмежаванай уладай у Літве, што выклікала змову супраць яго князёў жамойцкага *Траняты*, полацкага Таўцівіла, нальшчанскага *Даўмонта*. У выніку М. быў забіты разам з сынамі Рупекам і Руклем.

*Літ.*: Maleczyński K. W sprawie autentyczności dokumentów Mendoga z lat 1253—1261 // Ateneum Wileńskie. Wilno, 1936. R. 11; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959; Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993; Gudavičius E. Mindaugas. Vilnius, 1998; Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях. Мн., 2005; Mindaugo knyga: Istorijos šaltiniai apie Lietuvos karalių. Vilnius, 2005.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Мінск**, горад, сталіца Рэспублікі Беларусь, гл. *Менск*.

**Мірановіч** (Mironowicz) Антон Васілевіч (н. 30.10.1959, г. Беласток, Польшча), беларускі гісторык у Польшчы. Д-р габілітаваны (1997), праф. (1998). Скончыў Варшаўскі ун-т (1982). З 1986 выкладае ў Беластоцкім у-це. Даследуе гісторыю правасл. царквы ў Цэнтр. і Усх. Еўропе, бел.-польскія ўзаемаадносіны да канца 18 ст., нац. меншасці ў Польшчы.

*Тв.*: Supraśl jako ośrodek kulturalno-religijny w XVI wieku. Leimen, 1984; Podlaskie ośródki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. Białystok, 1991; Nieznany herbarz Michała Szęciłły. London, 1992; Bractwo Objawienia Pańskiego w Bielsku. Bielsk Podlaski, 1994; Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. Białystok, 1996 (2 wyd. 1997); Teodozy Wasilewicz, archimandryta słucki, biskup białoruski. Białystok, 1997; Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski. Białystok, 1998; Życie monastyczne na Podlasiu. Białystok, 1998; Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. Białystok, 2001; Kościół prawosławny w państwie Piastów i Jagiellonów. Białystok, 2003; Bractwa cerkiewne w Rzeczypospolitej. Białystok, 2003; Józef Bobrykowicz, biskup białoruski. Białystok, 2003.

**Мірскі замак**, умацаванне і рэзідэнцыя Іллінічаў і Радзівілаў побач з мяст. Мір Новагародскага пав., з 1553 цэнтр Мірскага графства. Будаўніцтва замка як родавай рэзідэнцыі-крэпасці пачаў 1520-я г. маршалак надворны Ю.Іллініч (гл. ў арт. *Іллінічы*). Асн. будаўніцтва праходзіла ў 2 этапы. На 1-м па перыметры чатырохвугольніка памерамі 60 x 60 м узведзены сцены таўшчынёй 2,5 м і вышынёй да 13 м з выступаючымі па-за сцены 4 вежамі па вуглах і 1 уязной пасярэдзіне зах. сцяны. На паўд. і ўсх. баках двара меркавалася ўзвесці палац, а на паўночным — арсенал. Таксама засталася незакончанай верхняя палова паўн.-зах. вежы. Асн. будаўнічыя матэрыялы — цэгла, камень. Падмурак складзены з вял. валуноў, ніжнія часткі сцен і вежаў выкананы ў мяшанай тэхніцы з каменю і цэглы, верхнія — з добра апрацаванай буйнапамернай цэглы (10 x 15 x 32 см). На некаторых цаглінах выціснуты мулярскія знакі. Перапаленыя экзэмпляры цэглы ўжыты для стварэння сеткавага малюнка муроўкі. Унутры сцены забутаваны цагляным і каменным ломам. Зах. і паўн. сцены завяршаліся галерэяй з адтулінамі для стральбы, каля ўязной вежы зроблены машыкуль для кідання камянёў і ліцца вару. Паўд. і ўсх. сцены мелі ўнізе байніцы для гармат, уверсе меркаваліся вял. вокны для будучага палаца (захаваліся іх фрагменты).



**Мірскі замак.**

Вежы (вышыня 25—27 м) да $^1/_2$ — $^1/_3$ вышыні маюць 4-граннае сячэнне, вышэй — 8-граннае, накрыты шатрамі, прарэзаны байніцамі і амбразурамі для вядзення агню з ручной агнястрэльнай зброі і гармат. Паўд.-зах. і паўд.-ўсх. вежы завяршаліся машыкулямі. У вуглавых вежах па 5 ярусаў, ніжнія маюць мураваныя скляпенні, верхнія перакрываліся памостамі на драўляных бэльках. Уязная 6-ярусная вежа-брама мела пад'ёмны мост, краты (герсу), 2 варот. Пад брамай у сутарэннях знаходзілася турма, на 2-м ярусе — капліца. Сцены ў вежах таўшчынёй ад 3 да 1,5 м, унутры сцен па вуглавых вежах кручаныя лесвіцы да самага верху, у брамнай — на 3 ярусы.

Дэкаратыўнае вырашэнне замка заснавана на кантрасце чырвоных цагляных сцен і белых атынкаваных нішаў з разнастайнымі арачнымі завяршэннямі. Найбольш багата аздоблены паўд.-зах. і паўн.-ўсх. вежы (апошняя пазней перароблена). Дэкор сцен і вежаў аб'яднаны арнаментаванымі парэбрыкамі, гіркамі, нішамі, паяскамі, паўкалонкамі. Мастацкая дасканаласць дэкору дасягнута простымі сродкамі без выкарыстання прафіляванай цэглы. Ва ўнутранай лесвіцы паўд.-ўсх. вежы захаваўся прыклад крышталёвага скляпення. Архітэктура замка 1-га этапу будаўніцтва мае рысы позняй бел. готыкі.

У 1568 ад згаслага роду Іллінічаў М.з. з маёнткамі перайшоў да нясвіжскіх Радзівілаў, пры якіх у канцы 16—пач. 17 ст. пачаўся 2-і этап будаўніц-



тва. Па ініцыятыве М.К.Радзівіла Сіроткі замак перароблены ў загарадную рэзідэнцыю італьянскага тыпу. З трох бакоў узведзены земляныя бастыёны, з паўд. боку зроблена сажалка, ад якой адыходзілі абводныя равы вакол бастыёнаў. На Пн ад бастыённых умацаванняў закладзены рэгулярны італьянскі парк, на У — зёлкавы агарод, за ім створаны фальварак.

У замку да ўязной вежы было дабудавана паўкруглае перадбрам'е, на дзядзінцы пры паўн. і ўсх. сценах у стылі Рэнесансу збудаваны 3-павярховыя палацавыя карпусы з падваламі, у новым стылі перароблены злучаныя з палацам вежы, у замкавых сценах закладзены і надбудаваны галерэі з байніцамі, прабіты адтуліны для новых акон (будаўнік Марцін Забароўскі).

Памяшканні палаца згрупаваны ў 4 секцыі з асобнымі ўваходамі і лесвіцамі. Сутарэнні і ніжні паверх выкарыстоўваліся пад склады і сховішчы гаспадарчых рэчаў, зброі, трафеяў, для размяшчэння аховы і вязняў. Пакоі 2-га паверха займалі службы і адміністрацыя графства, скарбніца. Княжацкія пакоі верхняга паверха ў розныя часы мелі рознае прызначэнне (залы, спальні, кабінеты, буфет, сямейная капліца і інш.), у бок двара зроблены выхад на балкон. З паўн. боку ад палаца праз бастыённае ўмацаванне быў перакінуты мост у італьянскі парк. Меўся абыход княжацкіх пакояў па перыметры з выхадам на адноўленыя баявыя галерэі паўд. і зах. сцен і да капліцы св. Хрыстафора над уязной брамай. Над капліцай быў размешчаны гадзіннік і званы.

Вонкавыя сцены палаца і прылеглых вежаў былі атынкаваны і пафарбаваны. Вокны і дзверы аздоблены разнымі ліштвамі з шэрага пясчаніку, апрацаванага ў належным Радзівілам г. Шыдловец (Польшча), дахі накрыты чарапіцай, прывезенай з Караляўца. Метал (жалеза, медзь, волава) выкарыстоўваўся ў аздабленні акон, дзвярэй, вадасцёкаў, калодзежаў, навершаў (флюгеры ў выглядзе арлоў). Ніжнія памяшканні палаца мелі скляпенні, верхнія — драўляную столь на разных дубовых бэльках, пазней упрыгожаную ляпнінай з пазалотай. Падлогі ўнізе былі цагляныя або з дошак, уверсе ўжываўся мармур, паркет з каштоўных парод дрэва; печы, у залежнасці ад прызначэння пакояў, выконваліся з кафляў простых, паліваных, з рэльефным арнаментам расліннага ці зааморфнага характару. Сцены былі аздоблены размалёўкамі (захаваліся фрагменты), габеленамі, партрэтамі. Да паўд. і зах. сцен замка былі далучаны 1-павярховыя гаспадарчыя памяшканні (пякарня, кухня, бровар, стайня). Паўд.-зах. і ўязная вежы ў асноўным захавалі свой першапачатковы выгляд.

Італьянскі парк, акружаны ліпавымі алеямі, падзяляўся на квадраты, абсаджаныя па перыметры кустамі, унутры былі пладовыя дрэвы мясцовых сартоў, пад імі — пакрытыя дзёрнам лаўкі. У 18 ст. з'явіліся ацепленыя зашклёныя аранжарэі з экзатычнымі раслінамі ў кадках, якія ўлетку выносіліся ў сад.

Замак моцна пацярпеў у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Цалкам спустошаны, ён быў адноўлены ў канцы 17 ст., зноў разбураны і спалены ў 1706 у час Паўн. вайны. Другое аднаўленне адбылося ў 1730-я г. Асн. кампазіцыя і структура замка засталіся нязменнымі. Большасць акон страціла каменнае разное абрамленне, замененае на простую тынкоўку, пакоі верхняга паверха часткова перапланаваны пад анфіладную сістэму, згодна з якой перасунуты некалькі акон. Інтэр'еры набылі рысы ракако, гал. залы называюцца Партрэтная і Танцавальная. Апошнім уладальнікам замка ў часы ВКЛ быў малалетні Д.Радзівіл (1786—1813), маёнткамі якога распараджаліся апекуны. Каштоўныя рэчы і ўбранне вывозіліся, бягучыя рамонты не праводзіліся. Канец 18—пач. 20 ст. — час заняпаду замка і ператварэнне яго ў руіны.

Асн. даследаванні М.з. праведзены Ю.Ядкоўскім (1910-я г.), А.Я.Міцяніным (1950-я г.), В.В.Калнінымі А.А.Трусавым (1970—90-я г.). Помнік рэстаўрыруецца, у музейнай частцы яго экспануюцца археалагічныя знаходкі (будаўнічая кераміка, кафля, металічныя вырабы). У 2000 ён укпючаны ў спіс каштоўнасцей сусветнага значэння ЮНЕСКА. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 131.

*Літ.*: Иодковский И. Замок в Мире // Древности. М., 1915; Трусов О.А., Чернявский И.М., Кравцевич А.К. Архитектурно-археологическое изучение Мирского замка и г.п. Мир // Советская археология. 1984. № 4; Калнін В.В. Мірскі замак. Мн., 2002.

***Валянцін Калнін.***

**Мірскія**, Святаполк-Мірскія, шляхецкі род герба «Бялыня» зменены ў ВКЛ, княжацкі род у Рас. імперыі. Прозвішча паходзіць ад мяст. Мёры. Вядомы з сярэдзіны 16 ст. ў Браслаўскім павеце. Андрэй М. жыў каля 1550, меў сына Рыгора, падкаморыя браслаўскага, і ўнукаў Івана, Рыгора, Сымона, Луку і Абрама. Іван і Абрам сталі пачынальнікамі 2 гал. ліній роду. У 18 ст. ўзнікла легенда, што род паходзіць ад Святаполка, сына вял. кіеўскага кн. Уладзіміра (адсюль прыдомак). Лічылі сябе аднаго паходжання з князямі Святаполк-Чацвярцінскімі і старажж. уладальнікамі мяст. Мір, на што не было ніякіх дакументальных падстаў. Княжацкі тытул зацверджаны Сенатам Польскага каралеўства ў 1821, у Рас. імперыі — імператарам у 1861. Найб. вядомыя:

Себасцьян (?—пасля 1641), сын Рыгора Рыгоравіча, суддзі земскага браслаўскага. Суддзя земскі; да 1633 перадаў участак зямлі Полацкаму Богаяўленскаму манастыру, у 1641 выдаў фундуш касцёлу ў Мёрах, у 1644 заснаваў там правасл. мужчынскі манастыр. Яго сын Крыштоф быў падкаморым браслаўскім і дэпутатам Скарбовага трыбунала ВКЛ у 1658 і 1678.

Рыгор (?—20.3.1661), сын Лукі Рыгоравіча. Удзельнічаў у паходах на Малдову супраць туркаў (быў у палоне), у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, *вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. У час паходу на туркаў у 1620 або 1621 зноў трапіў у палон, выкуплены ўрадам. У 1625 на чале 10 харугваў адваяваў у шведаў Мітаву. У ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* рабіў рэйды ў глыб Расіі. З 1635 на новастворанай пасадзе стражніка ВКЛ. У 1648 рушыў з войскам на занятую казакамі Рэчыцу, але ў час пераправы цераз Бярэзіну разбіты атрадам І.*Гаркушы* пад Горвалем. У кастр. 1648 рушыў на Пінск, заняты казакамі А.*Нябабы*, злучыўся пад горадам з атрадам пінскага маршалка Л.Ельскага, які паводле загаду Мірскага няўдала штурмаваў горад 5 кастрычніка. У час 2-га штурму 9 кастр. захапіў Пінск, дзе загінула шмат гараджан і казакоў, у т.л. Нябаба. У студз. 1649 злучыўся пад Нобелем з асн. сіламі гетмана Я.*Радзівіла* і стаў яго гал. памочнікам. У лют. 1649 камандаваў калонай пры аб-

лозе Бабруйска (гл. *Бабруйска абарона 1649*). У ліп. 1649 разбіў пад Рэчыцай атрад Я.*Галавацкага*. Удзельнічаў у *Лоеўскай бітве 1649*, *Лоеўскай бітве 1651*. Пад камандаваннем Радзівіла ўдзельнічаў у кампаніі 1654 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Падпісаў *Кейданскую унію 1655*, за што аб'яўлены здраднікам і пазбаўлены пасад (амнісціраваны ў 1658). З пачаткам антышведскага паўстання ў Жамойці ў 1655 выехаў у Слуцк, дзе і памёр. Вызнаваў кальвінізм.

Юзаф Антоні (?—пасля 1736), сын Казіміра. Браслаўскі харужы ў 1710—17 і маршалак з 1718, пасол на соймы 1717—36.

Тамаш (1738—пасля 1793), сын Цыпрыяна. Паручнік польнай булавы ВКЛ, пасол на сойм 1764, удзельнічаў у абранні караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1766 генерал-ад'ютант польнай булавы ВКЛ. У 1769 далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*, быў абраны маршалкам Браслаўскага пав. 11.6.1770 прысягнуў у Прэшаве Найвышэйшай радзе канфедэрацыі і ўключаны ў склад Ваеннай рады. Падтрымаў план вызвалення з рас. палону сенатараў і вярнуўся ў ВКЛ, дзе 22.7.1771 зноў абраны браслаўскім маршалкам, удзельнічаў у партызанскім руху. Летам—восенню 1771 удзельнічаў у дыверсійным рэйдзе Ш.Касакоўскага па цэнтр. і паўн. Беларусі, зімой—вясной 1772 — з ім жа ў Польшчы. Пасол на *Чатырохгадовы сойм 1789—92*.

Багуслаў (?—пасля 1800), брат Тамаша. З 1775 войскі браслаўскі, з 1777 падкаморы. Пасол на соймы 1776—86, Чатырохгадовы сойм 1788—92. Належаў да кола рэфарматараў, «Згуртавання сяброў урадавай уставы», з 1791 у складзе камісіі па выпрацоўцы крымінальнага і цывільнага кодэкса для ВКЛ. Удзельнік *паўстання 1794*, арганізаваў паўстанцкую парадкавую камісію ў Браслаўскім пав. 30.5.1794 увайшоў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады*, 2.8.1794 — у склад *Найвышэйшай нацыянальнай рады* ў Варшаве. Лёс пасля паўстання невядомы.

Станіслаў Войцех (21.10.1756, в. Завер'е Браслаўскага пав.—1805), брат Тамаша. Пісар земскі браслаўскі ў 1788, вял. пісар ВКЛ з 1791. Пасол на соймы 1784, 1788. Належаў да рэфарматараў, «Згуртавання сяброў урадавай уставы». Уваходзіў у канспіратыўную арг-цыю Я.*Ясінскага* па падрыхтоўцы паўстання 1794. 2.4.1794 увайшоў у склад Найвышэйшай літоўскай рады, пасля яе роспуску 1.6.1794 прызначаны Т.Касцюшкам чл. *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага*, узначальваў яе Аддзел справядлівасці. Пасля здачы Вільні ў жн. 1794 выехаў у Гародню, потым у эміграцыі, вярнуўся ў час амністыі паўстанцам Паўла I.

*Літ.*: Шаланда А., Крайнева І. «Дыярыуш» XVII ст. Грыгора Мірскага, стражніка Вялікага княства Літоўскага // Герольд Litherland. 2001. № 1—2; Liedkie M. Szlachta ruska Wielkiego Księstwa Litewskiego a reformacja Część I: recepcja nowych konfesji // Białoruskie zeszyty historyczne. 2002. Z. 18.

***Валерый Пазднякоў.***

**Місаіл** (?, в. Чарэя—1480?), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. У гіст. працах 19 ст. вядомы як М.Пестручэй (Пструх, Пяструцкі, Пструцкі; бо мянушка яго брата Міхаіла — Пструх — памылкова была прынята за прозвішча ўсяго роду). Незадоўга да 1454 стаў епіскапам смаленскім. У 1454 разам з братам Міхаілам заснаваў у Чарэі манастыр Св. Тройцы. У 1456 вярнуў з Масквы ў Смаленск абраз Маці Божай Адзігітрыі Смаленскай. Напачатку выступіў супраць прыхільніка царк. уніі мітрапаліта *Грыгорыя* Балгарына, пазней падтрымаў ідэю уніі. Каля 1475 абраны мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі (рэзідэнцыя ў Навагародку), але не быў зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам. Магчыма, у 1476 арганізаваў зварот вышэйшых правасл. духоўных і свецкіх асоб да рымскага папы Сікста IV (т.зв. эпістолію М.), тэкст якога ў пач. 17 ст. выкарыстоўваў для прапаганды уніі мітрапаліт І.*Пацей*. Аднак аўтэнтычнасць «эпістоліі» ці яе значнай часткі абгрунтавана аспрэчвалі многія даследчыкі. Апошнія звесткі пра М. адносяцца да 1480, калі ён, відаць, памёр.

*Літ.*: Архив Юго-Западной России... Киев, 1887. Ч. 1, т. 7. С. 199—231; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 669—670; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990; Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. М., 1996. Кн. 5. С.40—50.

***Алесь Белы.***

**місіянеры**, аб'яднанне рымска-каталіцкіх святароў (кангрэгацыя місіянераў св. Вінцэнта з Паўла, лац. Congregatio Missionis, CM), заснаванае ў 1625 у Парыжы Вінцэнтам з Паўла, у 1632 зацверджанае рымскім папам Урбанам VIII. Гал. іх мэта — пашырэнне каталіцтва праз місіянерскую дзейнасць і падрыхтоўка да яе моладзі. Капітул М. знаходзіўся ў Парыжы пры касцёле св. Лазара (наз. таксама лазарысты). У 1651 М. запрошаны ў Польшчу каралевай Марыяй Людвікай, жонкай Яна II Казіміра, гал. іх рэзідэнцыя зна-



Да арт. **Місіянеры**. Касцёл місіянераў у Вільні. Карціна З.Фогеля. Пач. 19 ст.

ходзілася ў Варшаве пры касцёле Св. Крыжа. У ВКЛ місіянерскія пляцоўкі былі ў Вільні (заснаваў у 1695 гетман К.Сапега), у Асвеі (заснаваў у 1788 менскі ваявода Гільзен), у Лыскаве (заснаваў у 1751 ксёндз Быхавец), у Оршы (з 1752), у Сямятычах (заснавалі ў 1719 пісар ВКЛ М.Сапега і ксёндз М.Красоўскі), у Смілавічах (заснаваў у 1747 М.М.Завіша з роду Агінскіх; мураваны касцёл існаваў у 1781—1930-я г.), у Тыкоціне (заснаваў у 1751 Я.К.Браніцкі). Дзейнічалі семінарыі М. у Магілёве (1783), Мінску (1804), Беластоку, Краславе, рэзідэнцыя ў Ігумене. У 1832 аб'яднанне М. у Рас. імперыі скасавана, усе яго ўстановы зачынены.

***Аляксандр Ярашэвіч, Міхаіл Дабрынін.***

**мітрапаліт** (ад грэч. metropolites чалавек з галоўнага горада), у шэрагу хрысціянскіх цэркваў адзін з вышэйшых тытулаў *епіскапаў*, кіраўнікоў некалькіх *епархій*. Інстытут М. сфарміраваўся ў першыя стагоддзі хрысціянства. У Рымскай імперыі М. наз. епіскапаў гал. гарадоў — мітраполій, якія мелі ў сваім падпарадкаванні інш. епіскапаў. У 4 ст. пры новым адм. падзеле імперыі на дыяцэзы і епархіі М. дыяцэзаў атрымалі тытул архіепіскапа, а калі ў распараджэнні апошняга было некалькі М., ён атрымліваў тытул прымаса ці экзарха. М. мае сан 3-й, вышэйшай ступені свяшчэнства і ў кананічных адносінах з'яўляецца роўным любому епіскапу, незалежна ад яго пасады і яго ганаровага тытула (патрыярха, экзарха і інш.).

У праваслаўі М. — тытул вышэйшых архірэяў. Стаіць ніжэй патрыярха, узначальвае памесную (аўтакефальную) царкву ці акругу з некалькіх епархій (у асобных выпадках — буйную епархію). Правы М. вызначаюцца ў кожнай памеснай царкве. Землі ВКЛ у кананічных адносінах падпарадкоўваліся *Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі* (13—18 ст.), *Галіцкай праваслаўнай мітраполіі* (14 ст.) і *Літоўскай праваслаўнай мітраполіі* (14—15 ст.).

У грэка-каталіцкай (уніяцкай) царкве, створанай у выніку *Берасцейскай уніі 1596*, яе кіраўнікі захавалі тытул кіеўскіх М. (гл. *Кіеўская уніяцкая мітраполія*).

У рымска-каталіцкай царкве М. — арцыбіскуп, які ўзначальвае мітраполію — царк. правінцыю з некалькіх дыяцэзій. Правы М. вызначаюцца кодэксам кананічнага права. Землі ВКЛ у кананічных адносінах падпарадкоўваліся *Галіцкай рымска-каталіцкай мітраполіі* (14—15 ст.), *Гнезненскай мітраполіі* (15—18 ст.), *Львоўскай рымска-каталіцкай мітраполіі* (15—18 ст.).

***Юрый Бажэнаў, Ігар Ганчарук.***

**Міхаіл Барысавіч** (1453 або 1457, г.(Цвер—не пазней 1505), апошні вялікі князь *Цвярскога вялікага княства* [1461—85]. Уступіў на прастол малалетнім пасля смерці бацькі, Барыса Аляксандравіча, і па дасягненні паўналецця спрабаваў працягваць яго палітыку на захаванне незалежнасці Цверы з апорай на ВКЛ. У жн. 1485 вял. князь маскоўскі Іван III пачаў ваенныя дзеянні і аблажыў Цвер. Цвярское баярства у большасці перайшло на бок Масквы. У ноч на 12.9.1485 М.Б. уцёк з абложанага горада ў ВКЛ. У 1486, атрымаўшы невял. дапаможны атрад ад вял. князя літоўскага Казіміра, М.Б. беспаспяхова спрабаваў вярнуць сабе княства. У якасці кампенсацыі за страчаныя ўладанні атрымаў ад Казіміра вял. грашовыя сумы, маёнтак Пячыхвосты на Валыні і вял. латыфундыю ў Слонімскім пав. (Ласасіная, Бялавічы, Гошчава і інш.). Першым шлюбам (1470) жанаты з Соф'яй, дачкой кіеўскага кн. Сямёна Алелькавіча, другім, паводле няпэўных звестак, — з дачкой кагосьці з роду Радзівілаў, аднак застаўся бяздзетным. Пасля смерці М.Б. яго ўладанні ў Беларусі перайшлі да кн. В.Глінскага. У Нац. мастацкім музеі Беларусі зберагаецца партрэт М.Б., які паходзіць з Нясвіжскай галерэі Радзівілаў.

*Літ.*: Борзаковский В.С. История Тверского княжества. СПб., 1876; Жизневский А.К. Портрет Тверского великого князя Михаила Борисовича. Тверь, 1889; Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.): Пер. с нем. Тверь, 1994.

***Алесь Белы.***



**Міхаіл Барысавіч**. Партрэт невядомага мастака. 17 ст.

**Міхаіл Жыгімонтавіч** (Баляслаў; 1380-я г.—1451 або 1452), князь у ВКЛ. Сын вял. князя літоўскага *Жыгімонта Кейстутавіча* і яго 1-й жонкі, дачкі кн. Андрэя Адзінцэвіча. З 1390 разам з бацькам і інш. быў аддадзены Вітаўтам крыжакам як залог за падтрымку ў барацьбе за велікакняжацкі пасад. Калі Вітаўт не стрымаў слова і заключыў з Ягайлам *Востраўскае пагадненне 1392*, М.Ж. і інш. заложнікі былі зняволены крыжакамі. З 1398 у ВКЛ, ажаніўся з Ганнай — дачкой плоцкага кн. Земавіта IV. У 1427—29 пры двары вял. магістра Нямецкага ордэна. З 1432, калі яго бацька заняў велікакняжацкі пасад, знаходзіўся пры ім, быў прызначаны камандуючым войскамі, што дзейнічалі супраць Свідрыгайлы. Атрымаў над ім перамогу ў *Вількамірскай бітве 1435*, заняў Оршу, аблажыў Віцебск і Полацк. Атрымаў ва ўладанне Слуцк, Хоўхлу, Слонім, землі на Падляшшы. Пасля забойства бацькі некаторыя феадалы, галоўным чынам на Жамойці, падтрымалі кандыдатуру М.Ж. на велікакняжацкі пасад, але ў 1440 вял. князем абраны Казімір IV. Паводле «Хронікі Быхаўца», Казімір, калі ўмацаваўся на троне, падараваў М.Ж. Бельск, Бранск на Падляшшы, Сураж, Клецк, Койданаў, Бранск на Дзясне і Старадуб. У Клецку М.Ж. задумаў змову супраць Казіміра, у якой удзельнічалі князі Валожынскія, але яна была раскрыта. Паводле інш. крыніц, М.Ж. пасля абрання Казіміра выехаў да

сваякоў у Мазоўша за падтрымкай у барацьбе супраць вял. князя, потым — у Малдову і да хана Сеід-Ахмеда. У пач. 1449 М.Ж. з татарскім войскам на кароткі час захапіў у ВКЛ Севершчыну і Кіеў. Пасля шукаў падтрымкі ў Маскве, але там зняволены і атручаны.

*Літ.*: Kopystiański A. Książe Michał Zygmuntowicz // Kwartalnik historyczny. 1906. Z. 1—2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Міхайлаў** Клім (?, г. Шклоў—пасля 1685), разьбяр па дрэве. З 1654 (?) працаваў у Расіі, майстар *беларускай рэзі*. З 1666 ці 1667 у Палаце разьбярных і сталярных спраў Маскоўскага Крамля, з 1681 узначальваў Палату. З *Арсеніем* Старцам і С.Зіноўевым удзельнічаў у стварэнні «іарданскай сені» (1668, цяпер у саборы Раства Багародзіцы ў Суздалі). У 1667—68 удзельнічаў у аздабленні палаца цара Аляксея Міхайлавіча ў с. Каломенскае, харомаў царэўнаў Соф'і Аляксееўны і Кацярыны Аляксееўны, стварэнні іканастасаў 3 цэркваў у Ізмайлаве. У 1683—85 група разьбяроў на чале з М. стварыла кліpac і 5-ярусны іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага і іканастас царквы Данскога манастыроў у Маскве. Пры яго ўдзеле створана драўляная разная рака цудатворца Савы Вішэрскага (1670).

**Міхал** Вішнявецкі (Карыбут-Вішнявецкі; 31.7.1640—10.11.1673), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1669—73]. Апошні з малодшай лініі роду князёў *Вішнявецкіх*. У час яго кіравання дзяржавай узмацніліся феад. міжусобіцы (4 з 6 соймаў былі сарваны шляхецкімі дэпутатамі паводле права ліберум вета) і толькі напад Турцыі вясной 1672 і захоп турэцкім войскам Камянца-Падольскага прадухілілі грамадзянскую вайну. Туркі вымусілі караля заключыць ганебны Бучацкі мір 1672, паводле якога Падолія адыходзіла да Турцыі. Але сойм Рэчы Паспалітай не зацвердзіў мірнага дагавора, і вайна аднавілася. Па дарозе ў войска, якое збіралася каля Хаціна, М. памёр у Львове.

*Літ.*: Przyboś A. Michał Korybut Wiśniowiecki, 1640—1673. Kraków, 1984.

***Анатоль Грыцкевіч.***



**Міхал** Вішнявецкі. Мастак Д.Шульц Малодшы. 1669.

**Міхалішкаўскі кляштар аўгусцінцаў** (канонікаў рэгулярных ад пакуты). Існаваў у 1622—1839 у мяст. Міхалішкі Віленскага пав. (цяпер вёска ў Астравецкім р-не). Засн. ў 1622 рэферэндарам ВКЛ Я.Бжастоўскім з адданнем кляштару фальварка Рудашаны, які ён памяняў з Рудамінам-Дусяцкім на Мілашуны. Сын Бжастоўскага Цыпрыян Павел дадаў да зямельнага ўчастка дакупленую частку Мілашун і фальварак Буйвідзы. Быў філіялам *Віленскага кляштара аўгусцінцаў*. Дзейнасць нешматлікіх манахаў абмяжоўвалася абслугоўваннем парафіі, працаваў шпіталь. У 1653 (паводле інш. звестак у 1622) тут пабудаваны мураваны касцёл Міхала Архангела (арх. К.Пенс), у канцы 17 ст. аздоблены ляпнымі алтарамі са стука (майстры П.Перці, М.Жалевіч і інш.), служыў пахавальняй Бжастоўскіх і Котвічаў. У 1782 інфлянцкі біскуп Ю.Касакоўскі дамогся ад рымскага папы закрыцця кляштара. Аўгусцінцы папрасілі дапамогі ў гаспадара Міхалішак графа Міхала Бжастоўскага, які адпісаў на касцёл і плябанію 20 тыс. злотых, валоку зямлі, аднак у далейшым сам захапіў уладанні кляштара. У 1839 са скасаваннем ордэна аўгусцінцаў у Рас. імперыі кляштар зачынены. Касцёл стаў парафіяльным, у 1-ю сусв. вайну ў 1915 пацярпеў ад пажару ў выніку ваен. дзеянняў, у 1920-я г. адрэстаўрываны.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Міхалон Літвін** (лац. Michalo Lituanus), аўтар трактата «Пра норавы татараў, літвінаў і маскавітаў» («De moribus tartarorum, lituanorum et moschorum»). Твор напісаны да 1550. Захаваліся 10 вял. фрагментаў, выдадзеных у 1615 на лац. мове ў друкарні Ё.Я.Грасера ў Базелі (Швейцарыя) разам з творам Я.*Ласіцкага* «Пра багоў жамойтаў». Трактат прысвечаны крытыцы загану ВКЛ, паноў, каталіцкай царквы, якія паслужылі прычынамі знешнепаліт. няўдач дзяржавы. М.Л. узняў шэраг важных пытанняў эканам. і грамадска-паліт. жыцця ВКЛ: дэфіцыту бюджэту, неабходнасці судовай рэформы, рэарганізацыі велікакняжацкай канцылярыі, рэфармавання войска і інш. Апісаў жахлівую карціну гандлю рабамі з ВКЛ у Крыме, рэкамендаваў прыцягнуць да абароны межаў запарожскіх казакоў, выступаў супраць прывілеяў магнатаў, за ўмацаванне пазіцый шляхты. Звяртаў увагу жыхароў ВКЛ на заганы — п'янства, хабарніцтва, ляноту, марнатраўства. Высока ставіў вял. кн. Вітаўта. Прыклад Вітаўта, на думку М.Л., пераймае Іван IV Грозны (трактат напісаны да таго, як выявіўся дэспатызм цара). М.Л. ухваляе інш. князёў ВКЛ, ганарыцца паходамі продкаў на Маскву, шкадуе пра страчаныя ў віленскім касцёле св. Станіслава 300 старых трафейных сцягоў, у т.л. 12 з-пад Оршы ў 1514. Ён прыпісвае літвінам гал. ролю ў вызваленні рус. народа з-пад улады мангола-татараў. Літва, паводле М.Л., — гэта заваяваная Цэзарам правінцыя. Паказаў падабенства лацінскіх і літоўскіх слоў, негатыўна ставіўся да афіцыйнай «рутэнскай» (старабел.) мовы і ўсхваляў латынь: «Рутэнская мова ёсць чужая нам, літвінам, гэта значыць італьянцам, якія паходзяць ад італьянскай крыві», а «маскоўская пісьменнасць», лічыў ён «не заклікае да доблесці». Даў звесткі пра становішча жанчыны ў ВКЛ, сям'ю, каханне. Некаторыя прапановы трактата знайшлі адлюстраванне ў пастановах Віленскага сойма 1551.

Аўтарам трактата некаторы час лічылі дзярж. дзеяча і дыпламата, праваслаўнага па веравызнанні Міхаіла Тышкевіча (гісторыкі У.Б.Антановіч, М.К.Любаўскі і інш.), потым — Мікіфара Грыньку Лавейкавіча па мянушцы

Міхайла (К.Яблонскіс). Цяпер прынятая версія Е.Ахманскага, што М.Л. — гэта Венцаслаў Мікалаевіч (каля 1490—1560), літовец, католік, лацінскі сакратар велікакняжацкай канцылярыі ў 1534—42 і 1547—55, староста скірстымойнскі і расейнскі ў 1540-я г. Ён быў адзіным католікам сярод паслоў у Крым, дзе ў 1543 мог назіраць татарскія зборы ў паход на Венгрыю, быў у складзе пасольства ВКЛ да Івана IV у 1536 і 1556, што адпавядае асобе М.Л. Мікалаевіч у 1557 праводзіў рэвізію межаў зямель Менска, якая скончылася ў 1558 перадачай афіцыйным прадстаўнікам горада новай уставы. Магчыма, ён быў аўтарам перапланіроўкі Менска, у ходзе якой з'явіліся новыя гар. кварталы і рынчная плошча. Іл. гл. ў т. 1, с. 61.

*Тв.*: Літ. пер. — Apie totorių, lietuvių ir maskvėnų papročius: Dešimt įvairaus istorinio turinio fragmentų / Vertė I.Jonynas. Vilnius, 1966; Рус. пер. — О нравах татар, литовцев и москвитян / Перевод В.И.Матузовой. М., 1994.

*Літ.*: Охманьский Е. Михалон Литвин и его трактат о нравах татар, литовцев и москвитян середины XVI в. // Россия, Польша и Причерноморье в XV—XVIII вв. М., 1979; Сокол С.Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI—первой половины XVII в. Мн., 1984; Ročka M. Mykolas Lietuvis. Vilnius, 1988; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі. Мн., 1990; Баравы Р. Менск у XVI стагоддзі: першы «генеральны» план горада і яго магчымы аўтар // Бел. гіст. агляд. 2004. Т. 11, сш. 1—2.

***Расціслаў Баравы, Альбіна Семянчук.***

**Міхненка**, палкоўнік украінскага казацкага войска. У пач. студз. 1649, у сувязі з наступленнем войска ВКЛ на чале з гетманам польным ВКЛ Я.*Радзівілам* на ПдЗ Беларусі, быў накіраваны Б.Хмяльніцкім у Мазыр на дапамогу паўстаўшым гараджанам і казакам, якія адступілі з Турава. У час аблогі Мазыра (гл. *Мазырскае паўстанне 1649*) большасць казакоў загінула, М. ўзяты ў палон. Паводле адных звестак, яму адсеклі галаву, паводле іншых — ён быў пасаджаны на кол.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1960; Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965.

***Васіль Мялешка.***

**Міцкевіч** Юзаф [12.06.1744, Гарадзенскі пав.—5(17).7.1817], педагог, фізік. Пачатковую адукацыю атрымаў у Гародні. У 1761 уступіў у ордэн езуітаў. Скончыў Віленскую акадэмію, дзе пад кіраўніцтвам М.Пачобута-Адляніцкага і А.Стрэцкага вывучаў фізіку. З 1775 загадчык фізічнага кабінета Віленскай акадэміі, у 1781—1804 выкладаў эксперыментальную фізіку. У 1803—17 дэкан фізіка-матэматычнага ф-та Віленскага ун-та, у 1806—07 выконваючы абавязкі рэктара. Садзейнічаў укараненню фізічных дасягненняў у паўсядзённае жыццё, праводзіў доследы ў галіне электратэрапіі, метэаралагічныя назіранні, вывучаў уласцівасці рэчываў, пашыраў фізічны кабінет. Лічыцца «бацькам фізікі на Літве».

*Літ.*: Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwe Litewskim. Wrocław etc., 1973; Бирало А. Философские проблемы в науке эпохе Просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979; Очерки истории науки и культуры в Беларуси IX—начала XX вв. Мн., 1996.

***Павел Космач.***

**Мнішкі** (Вандаліны-Мнішкі), шляхецкі род уласнага герба ў Рэчы Паспалітай. Паходзілі з Чэхіі, у 16 ст. асталяваліся ў Польшчы. З 17 ст. лічылі сваім продкам военачальніка Карла Вялікага Вандаліна, імя якога стала прыдомкам. Найб. вядомыя:

Ежы (Юрый; каля 1548—май 1613), дзярж. дзеяч Польшчы. Вучыўся ва ун-тах Караляўца (Кёнігсберга) і



Да арт. **Мнішкі**. Е.Мнішак. Мастак Ш.Багумовіч (?). 1610.



Да арт. **Мнішкі**. Марына Мнішак у шлюбным строі. Невядомы львоўскі мастак. Пасля 1606.

Лейпцыга. У 1571—72 кухмістр Жыгімонта II Аўгуста, яго давераная асоба, крайчы каронны ў 1572—82, кашталян радамскі ў 1582—89, ваявода сандамірскі з 1589. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. У 1604 у яго рэзідэнцыі ў Самбары быў праездам *Ілжэдзмітрый I*. Ежы заключыў з ім дагавор і абяцаў ваенную дапамогу ў здабычы маскоўскага трона, Ілжэдзмітрый абавязваўся ажаніцца з дачкой Ежы Марынай і выплаціць цесцю 1 млн. злотых. У 1604 атрад Ежы разбіў рас. войска пад Ноўгарадам-Северскім і садзейнічаў захопу Лжэдзмітрыем Масквы. 12.5.1606 Ежы разам з дачкой прыбыў у Маскву, але пасля забойства самазванца сасланы ў Яраслаўль. Вызвалены ў 1608, падтрымаў *Ілжэдзмітрыя II*. На соймах 1609 і 1611 выступаў супраць інтэрвенцыі Жыгімонта III у Расію, каб захаваць маскоўскі трон за сваёй дачкой, а не аддаць яго каралевічу Уладзіславу.

Марына (1588 або 1589—1614), дачка Ежы. У 1604 сасватана ў Самбары за Лжэдзмітрыя I. Завочны шлюб з ім адбыўся ў Кракаве 22.11.1605, другі шлюб і яе каранацыя як царыцы — у Маскве 18.5.1606. Пасля забойства самазванца саслана ў Яраслаўль, у 1608 вызвалена, але далучылася да Лжэ-


Да арт. **Мнішкі**. Е.А.Мнішак. Мастак майстэрні Л. дэ Сільвестра. Каля 1750.

дзмітрыя II, якога прызнала за ранейшага мужа. Пасля забойства Лжэдзмітрыя II зняволена, нарадзіла ад яго сына Івана. «Царэвіч» стаў сцягам 1-га апалчэння пад камандаваннем Пракопа Ляпунова і Івана Заруцкага. У 1614 схоплена войскамі цара Міхаіла Фёдаравіча і памерла ў зняволенні.


Да арт. **Мнішкі**. Ю.Мнішак. Мастак майстэрні Л. дэ Сільвестра. Каля 1750.

Юзаф (1670—25.6.1747), стараста санацкі з 1691. Праз шлюб з дачкой мечніка ВКЛ Ш.К.Агінскага Элеанорай уцягнуты ў вайну шляхты ВКЛ супраць Сапегаў; удзельнічаў у Алькеніцкай бітве 1700. Пасля гібелі М.Сапегі атрымаў пасаду генерала артылерыі ВКЛ. У 1704 далучыўся да *Сандамірскай канфедэрацыі*. Маршалак надворны ВКЛ у 1706—13, маршалак вял. каронны ў 1713—42, кашталян кракаўскі з 1742. Адзін з буйнейшых магнатаў Рэчы Паспалітай, на Гарадзеншчыне валодаў Рудавай і Вял. Бераставіцай, дзе заснаваў францысканскі кляштар. Мецэнат.

Ежы Аўгуст (1715—15.10.1778), сын Юзафа. Лоўчы каронны ў 1732—36, падкаморы ВКЛ у 1736—42, маршалак надворны каронны ў 1742—67, стараста генеральны велікапольскі ў 1757—78, кашталян кракаўскі з 1773. Валодаў шматлікімі старраствамі у т.л. з 1760 Крычаўскім. У паліт. жыцці падтрымліваў Аўгуста III, далучыўся да *Радамскай канфедэрацыі*.

Ян Кароль (1716—19.9.1759), сын Юзафа. Лоўчы каронны ў 1736—42, падкаморы ВКЛ з 1742. Трымаў шматлікія староствы.

Міхал Ежы (1742—2.3.1806), сын Яна Караля. Вучыўся ў Варшаве, Швейцарыі, вандраваў па краінах Еўропы. Чашнік каронны ў 1777—78, сакратар вял. свецкі ВКЛ у 1778—81, маршалак надворны ВКЛ у 1781—83, маршалак вял. каронны ў 1783—93, стараста слонімскі. Прыбліжаны караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Прыхільнік ідэй Асветніцтва, распрацаваў праект акадэміі навук і нац. музея. Чл. Т-ва элементарных кніг, Адукацыйнай камісіі. У 1780—81 сакратар дэпартамента замежных інтарэсаў Пастаяннай Рады, у 1782—86 старшыня дэпартамента паліцыі. Выступаў за правядзенне рэформ у Рэчы Паспалітай з апорай на Расію, за далучэнне караля да Таргавіцкай канфедэрацыі. На Гарадзенскім сойме 1792 адмовіўся падпісаць акты пра падзел Рэчы Паспалітай і падаў у адстаўку. Пасля адрачэння Панятоўскага ад трона ў Гародні суправаджаў яго ў Пецярбургу.

***Валерый Пазднякоў.***

**Можы** (Morzy) Юзаф (н. 10.8.1921, в. Лопуш Бельск-Падляскага пав. Беластоцкага ваяв.), польскі гісторык. Д-р гіст. навук (1962). Скончыў Мас-


Да арт. **Мнішкі**. М.Е.Мнішак. Мастак Я.Х.Лампі.

коўскі ун-т (1955). Да 1991 працаваў ва Ун-це імя А.Міцкевіча ў Познані, дацэнт (1968). Вывучае гісторыю ВКЛ і Расіі. На падставе шматлікіх крыніц зрабіў выснову пра значнае (да 50%) скарачэнне насельніцтва ВКЛ у час войнаў 1648—67 з-за баявых дзеянняў, голаду, пошасцей, вываду ў палон, уцёкаў. Аўтар больш як 50 кніг, артыкулаў і рэцэнзій.

*Тв.*: Geneza i rozwój cechów wileńskich do końca XVII w. // Zeszyty naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza w Poznaniu. Historia. Poznań, 1959. Z. 4; Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Zarys dziejów ZSRR. Warszawa; Poznań, 1984 (з А.Кіясам, Е.Ахманскім); Бел. пер. — Дэмаграфічны спад на Беларусі й Ліцьве ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя // Спадчына. 1992. № 5.

**морг** (ад ням. Morgen ранак), зямельная мера. У сярэдневяковай Еўропе — зямельная прастора, якую мог апрацаваць адзін чалавек з ранку да паўдня. У 18—19 ст. прыкладна адпавядаў плошчы, якую можна было ўзараць за дзень парай валоў (канём) і на якой можна было высеяць 0,25 віленскай бочкі жыта або накасіць 1,6 воза сена. Як зямельна-падліковая адзінка меў шмат разнавіднасцей. Існавалі М. магдэбургскі (0,2553 га), гановерскі (0,2767 га), амстэрдамскі (0,8128 га), венскі (0,575 га), старапольскі (каронны, 0,5985 га), навапольскі (0,5602 га,



з 1819 роўны 0,5599 га), хэлмскі стары (0,5606 га) і новы (0,5787 га). На Беларусі М. стаў пашыраным з сярэдзіны 16 ст., з часу правядзення *валочнай памеры* і вызначаўся як плошча памерам 3 x 1 шнур, або 30 x 10 прутоў (0,7123 га). Паводле вызначэнняў магілёўскага і полацкага верхніх земскіх судоў у 1780, мінскай губернскай чарцёжнай у 1802, літоўскі М. складаўся з 3 квадратных шнуроў (300 квадратных прутоў = 16 875 квадратных локцяў = 1452 квадратных сажняў = 0,605 дзесяціны, г.зн. 0,661 га). У залежнасці ад гасп. прызначэння ўгоддзяў і зыходзячы з мэты абкладання іх павіннасцямі вылучалі палявыя, сенажатныя, лясныя, засцянковыя М.

*Літ.*: Журавский Д.П. Об источниках и употреблении статистических сведений. М., 1846; Сементовский А.М. О мерах и весе, употребляемых в Витебской губернии. Витебск, 1874.

***Яўген Анішчанка.***

**Моршты**н (Morsztyn) Збігнеў (каля 1628, Польшча—13.12.1689), паэт, перакладчык. З 1646 служыў у Радзівілаў у Беларусі і Літве. За ўдзел у ваенных паходах атрымаў пасаду мазырскага мечніка (1657). Сябраваў з жыхарамі Слуцка — мемуарыстам С.*Незабітоўскім* і выдаўцом К.*Клакоцкім*. У паэме «Слаўная перамога над туркамі...» (1674), якая была двойчы выдадзена ў Слуцку, ушанаваў памяць удзельнікаў *Хацінскай бітвы 1674*. Там жа надрукаваны яго верш на смерць Клакоцкага (1675). Аўтар вершаванага цыкла «Эмблемы» (1678—80), прысвечанага княгіне К.*Радзівіл*, паэтычнага зборніка «Хатняя муза» (увайшлі вершы 1675—83), паэмы «Песня ў прыгнёце» (1671), элегій «Жалобныя плачы Апалона з музамі» (1682). У яго паэзіі адбіліся рысы барока, гучыць заклік да рэліг. цярпімасці, асуджэнне амаральнасці магнатаў.

*Тв.*: Muza domowa. T. 1—2. Warszawa, 1954; Wybór wierszy. Wrocław, 1975.

*Літ.*: Pelc J. Zbigniew Morsztyn, arianin i poeta. Wrocław, 1966; Яго ж. Zbigniew Morsztyn na tle poezji polskiej XVII w. Warszawa, 1973.

***Адам Мальдзіс.***

**Мосарскі касцёл Ганны**, помнік архітэктуры класіцызму. Заснаваны ў 1792 у мяст. Мосар Ашмянскага пав. (цяпер Глыбоцкі р-н) Робертам і Ганнай з Плятэраў Бжастоўскімі. Будаўніцтва зацягнулася, асвячоны ў 1851. Прамавугольны выцягнуты па падоўжнай восі мураваны будынак накрыты 2-схільным дахам з трохвугольным франтонам на тарцах. Гал. фасад аздоблены канеліраванымі пілястрамі, філёнгамі, паўкруглымі нішамі са скульптурамі святых. Аконныя і дзвярныя праёмы прамавугольныя, аздоблены ліштвамі. Пры ўваходзе вылучаны вузкі нартэкс з бакавымі ўваходамі ў асн. залу. Зала перакрыта люстраным скляпеннем з арнаментаванай размалёўкай. Алтарная сцяна дэкарыравана канеліраванымі пілястрамі, 10 філянговымі рамамі з ляпнымі барэльефнымі выявамі евангелістаў. Сцены завершаны па перыметры магутным антабелементам, які мае фрыз з трыгліфамі і ляпнымі гірляндамі, карнізам з сухарыкамі. З паўд.-зах. боку ад касцёла стаіць 3-ярусная мураваная званіца, накрытая шатром. Збудаванне абнесена мураванай агароджай з брамай па восі ўвахода. Касцёл дзейнічае, вызначаецца сучасным добраўпарадкаваннем.

***Тамара Габрусь.***

**Мсціслава абарона 1654**. Адбылася ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Баі паміж рас. войскамі на чале з А.М.*Трубяцкім* і войскам ВКЛ пачаліся ў ліп. 1654. Войскі Трубяцкога аблажылі горад. На дапамогу мсціслаўцам падышлі «служылыя людзі» «рословского урядника» М.Посахаўскага колькасцю больш за 3 тыс. чал. У баі войска Посахаўскага было разбіта, каля 500 чал. захоплены ў палон. У выніку прыступу 22 ліп. горад быў узяты. Паведамляючы аб гэтым прыступе Б.Хмяльніцкаму, цар Аляксей Міхайлавіч у сваёй грамаце пісаў, што горад «взяты взятьем и шляхты, поляков и литвы и иных служылых людей и ксензов и езвуитов и иного их чину побито больши десяти тысяч человек». У якасці палонных баяры і ваяводы адаслалі цару «городничего мсциславского Я.Стенкевича, да ротмистров и иных начальных людей».

***Васіль Мялешка.***

**Мсціслава абарона 1659**. Адбылася ў студз.—крас. ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Мэтай рас. войск было падаўленне выступлення гараджан і ўзбр. атрадаў палкоўніка І.Рытара, ротмістра А.Сутоцкага, казацкага сотніка Гермы, «стражніка шляхты» В.Крываноса, паручніка Зімніцкага, якія здрадзілі прысязе на вернасць цару. Абаронцаў Мсціслава было больш за 3 тыс. чал. (шляхта, конныя і пешыя казакі), 300 укр. казакоў, якіх прыслаў на дапамогу гетман І.*Выгоўскі*. З 5.2.1659 рас. войскі на чале з кн. І.І.*Лабанавым-Растоўскім* пачало аблогу Мсціслава. Нягледзячы на жорсткія прыступы, горад выстаяў. Абаронцам неаднаразова па «вытрубках» дасылаліся прапановы здаць горад, але яны адмаўляліся. У сак. на дапамогу асаджаным прыйшлі казакі І.*Нячая*, атрад брата Выгоўскага Самойлы і палкоўнік С.Аскерка «са многими людьми». 21 сак. яны атакавалі рас. войска, але беспаспяхова. Больш чым 2-месячная поўная блакада падарвала сілы абаронцаў. У горадзе не хапала вады і прадуктаў. У пачатку крас. 1659, паводле заявы Лабанава-Растоўскага, «полковник Рытар и шляхта и казаки и всяких чинов жилецкие люди ему великому государю добили челом и город Мсциславль сдали».

***Васіль Мялешка.***

**Мсціславец** Пётр Цімафеевіч (?, г. Мсціслаў—пасля 1576), беларускі і расійскі друкар і гравёр. Удзельнічаў у заснаванні (з І.*Фёдаравым*) друкарні ў Маскве, дзе яны надрукавалі «Апостал» (1564), 2 выданні «Часоўніка» (1565). Пад націскам рэакцыйных колаў і кансерватыўнага духавенства з Фёдаравым пакінуў Маскву і пераехаў у мяст. Заблудава Гарадзенскага пав. да вял. гетмана ВКЛ Р.А.Хадкевіча, які памог заснаваць *Заблудаўскую друкарню* і выдаць «Евангелле вучыцельнае» (1569), у якое ўвайшлі перакладныя «Словы» і творы айчынных аўтараў («Слово на вознесенне господне» Кірылы Тураўскага), а таксама «Псалтыр з Часаслоўцам» (1570). У 1569 пераехаў у Вільню і з дапамогаю *Мамонічаў* заснаваў там друкарню, у якой амаль праз паўстагоддзя пасля спынення выдавецкай дзейнасці Ф.Скарыны адрадзіў кірыліцкае кнігадрукаванне. Спачатку М. выдаў некалькі кніг рэліг. характару для праваслаўных. Некаторыя з іх маглі выкарыстоўвацца і для навучання дзяцей пісьменнасці («Псалтыр», 1576). У Вільні М. таксама выдаў «Часоўнік» [1574—76(?)], «Евангелле напрастольнае» (1575). У *Віленскай друкарні Мамонічаў* ім выдадзены кнігі, найбольш дасканалыя з боку афармлення. Іх ад-

метныя рысы — буйны прыгожы шрыфт, застаўкі з раслінна-кветкавым фонам, чырвоная вязь на пачатку раздзелаў, ілюстрацыйныя гравюры і інш. Віленскія выданні М. шырока распаўсюджваліся на Беларусі, Украіне, у Расіі. У 1576 пачаўся судовы працэс М. з К.Мамонічам за друкарню, пасля чаго частка матэрыялу з друкарні Мамонічаў апынулася ў *Астрожскай друкарні*. Друкарскія матэрыялы М. (шрыфты, арнамент, ламбарды) пазней трапляюцца ў выданнях Астрожскай, Дзерманскай і інш. укр. друкарняў 16—пач. 17 ст. Пасля 1576 сляды дзейнасці М. губляюцца. Іл. гл. ў т. 1, с. 122.

*Літ.*: Зернова А.С. Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец // Книга: Исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9; Неміроўскі Я.Л. Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984.

***Георгій Галенчанка.***

**Мсціслаў** (цяпер горад, цэнтр Мсціслаўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Мсціслаўскага ваяводства*, на р. Віхра. Упершыню ўпамінаецца ў грамаце 1136—50, быў у складзе Смаленскага княства, з сярэдзіны 12 ст. цэнтр *Мсціслаўскага княства*. Горад узнік на Замкавай гары, складаўся з дзядзінца (гл. *Мсціслаўскі замак*), вакольнага горада і пасада. З сярэдзіны 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1359 вял. князь літоўскі пасадзіў у М. свайго намесніка, а пазней перадаў горад сыну *Лугвену*, заснавальніку роду князёў *Мсціслаўскіх*. Каля горада адбылася *Мсціслаўская бітва 1386*. Мсціслаўскі полк вызначыўся ў *Грунвальдскай бітве 1410*. У 14—15 ст. М. — гандлёва-рамесны цэнтр, эканамічна цесна звязаны з Магілёвам, Вільняй, Кракавам, Ноўгарадам, Разанню і інш. З 1527 ва ўладанні вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста, цэнтр каралеўскай воласці, староства, пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 цэнтр ваяводства. Каля горада існаваў *Мсціслаўскі Пустынскі Успенскі манастыр*. У пач. 17 ст. заснаваны *Мсціслаўскі кляштар кармелітаў*. 16.8.1634 горад атрымаў магдэбургскае права і герб з выявай шчыта і рукі з мячом. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* адбыліся *Мсціслава абарона 1654*, *Мсціслава абарона 1659*, да 1661 горад заняты рас. войскамі. У 1690 у М. аселі езуіты, якія трымалі тут місію, пазней рэзідэнцыю і калегіум (гл. *Мсціслаўскі езуіцкі калегіум*). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Ясинский О.А., Гасенков В.Л. Мстиславль: Ист.-экон. очерк. Мн., 1975; Караткевіч У. Мсціслаў=Мстиславль: Эсе пра гісторыю і людзей адной зямлі. Мн., 1985; Ткачоў М.А., Трусаў А.А. Старажытны Мсціслаў. Мн., 1992.

***Марат Батвіннік.***

**Мсціслаўскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Утворана ў 1565. Ахоплівала тэр. былога *Мсціслаўскага княства, Крычаўскай воласці* і прыватных маёнткаў, папярэдне вылучаных з іх складу. На паветы не падзялялася. Мела харугву жоўтага (паводле А.Гваніні— «памяранцавага», аранжавага) колеру з выявай герба «Пагоня» ў чырвоным полі. Буйнейшымі паселішчамі, апрача г. Мсціслаў, былі мястэчкі Дрыбін, Жукава, Крычаў, Радамль, Расна, Хіславічы, Хоцімль, Шумячы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, дзе яго тэр. ўвайшла ў Мсціслаўскую правінцыю.

Ваяводы мсціслаўскія: Ю.Ю.Осцік (1566—78), П.М.Пац (1578—93), Г.Ю.Хадкевіч (1593—95), С.М.Нарбут (1595—96), Я.Я.Завіша (1596—99), П.М.Дарагастайскі (1600—05), А.І.Сапега (1605—11), А.Я.Тышкевіч (1611—14), А.Я.Галоўчынскі (1614—17), М.М.Гедройц (1617—21), Я.С.Тышкевіч (1621—26), М.Кішка (1627—36),





К.Кішка (1636—39), Ю.Л.Корсак (1639—43), М.Абрамовіч (1643—47), Ф.Сапега (1647—50), Р.Друцкі-Горскі (1650—59), М.Цеханавецкі (1659—72), Я.Агінскі (1672—82), Ш.К.Агінскі (1682—85), А.Я.Масевіч (1685—98), М.Даўмонт-Сясіцкі (1698—1713), Я.Тызенгаўз (1714—30), К.Д.Пузына (1730—31), Е.Сапега (1732), К.Несялоўскі (1735), К.Хлусевіч (1735—37), М.Ю.Масальскі (1737—42), Е.Сапега (1742—50), І.Сапега (1750—58), К.Л.Плятэр (1758—70), Ю.Гільзен (1770—72, намінальна да 1786), Т.Білевіч (намінальна ў 1786—88), Ф.К.Хамінскі (намінальна ў 1788—95).

Кашталяны мсціслаўскія: І.В.Саламярэцкі (1566—78), С.П.Нарушэвіч (1580—88), С.Война (1588—99), С.Война (1599—1603), І.І.Мялешка (1605—10), Ф.Лукомскі (1610—11), К.Я.Галоўчынскі-Рапалоўскі (1611—20), Ш.С.Сангушка-Ковельскі (1620—21), К.М.Друцкі-Саколінскі (1623—25), К.А.Палубінскі (1627—33), П.Пац (1633), Я.Ф.Б.Агінскі (1633—40), М.Абрамовіч (1640—43), Я.Каменскі (1643—44), Б.В.Статкевіч (1644—46), Я.Я.Касакоўскі (1646—49), М.Цеханавецкі (1653—59), Я.А.Друцкі-Саколінскі (1659—62), С.Белазор (1662—66), П.Рышкоўскі (1667—1702), М.Шпілеўскі (1702), М.К.Агінскі (1703), М.Камінскі (1703—15), К.Б.Бжастоўскі (1715—22), К.Д.Пузына (1722—30), С.Лазовы (1730—38), С.Е.Агінскі (1738—40), Ю.Шчыт-Неміровіч (1740—45), А.М.Пузына (1746—52), Я.Забела (1752—61), Ю.Тышкевіч (1761—72, намінальна да 1775), С.Тышкевіч (намінальна ў 1775—83), Т.Білевіч (намінальна ў 1783—86), Ю.Храпавіцкі (намінальна ў 1786—92), І.Дашкевіч (намінальна ў 1792—95).

*Вячаслаў Насевіч.*

**Мсціслаўскае княства**, удзельнае княства сярэдзіны 12—пач. 16 ст. Цэнтр — г. *Мсціслаў*. Сфарміравалася як удзельнае княства Смаленскай зямлі на аснове зямель радзімічаў, што ўвайшлі ў склад Смаленскай зямлі ў выніку паходаў 1127 і 1142 на Чарнігаўскую зямлю кн. Расціслава Мсціславіча. У 1180 згадваецца першы мсціслаўскі кн. Мсціслаў Раманавіч.

Пасля ўключэння паўд.-зах. зямель Смаленскай зямлі ў склад ВКЛ (1358) М.к. было скасавана, гэтыя землі кіраваліся велікакняжацкім намеснікам. У канцы 1380-х г. М.к. адноўлена ў складзе ВКЛ і аддадзена ва ўдзел кн. *Лугвену*, які стаў заснавальнікам новай дынастыі мсціслаўскіх князёў (гл. *Мсціслаўскія*). У 15 ст. княства складалася з валасцей Мсціслава, Крычава, Мгліна, Дрокава, Паповай Гары, Алучыц, Малахоўскага пуці, Прыкладняў і Салаўянічаў. З 1431 М.к. валодаў Юрый Лугвеневіч. У 1435—40 і 1443—47 з-за ўдзелу Юрыя ў выступленнях супраць вял. князя М.к. было канфіскавана і знаходзілася ў дзярж. скарбе. У 1457—83 на мсціслаўскім стале знаходзіўся Іван Юр'евіч. Пасля смерці яго ўдавы Ульяны (1495) М.к. скасавана, валасці пераўтвораны ў самастойныя адм.-тэр. адзінкі, якія адміністрацыйна ўваходзілі ў склад Віленскага ваяв.

У 1498, пасля шлюбу дачкі апошняга мсціслаўскага князя з роду Лугвена Івана Юр'евіча Ульяны і кн. Міхаіла Іванавіча Жаслаўскага М.к. зноў адноўлена, і Міхаіл Іванавіч стаў родапачынальнікам новага роду князёў Мсціслаўскіх. З гэтага часу М.к. складалася з 2 не злучаных паміж сабою валасцей — Мсціслава і Мгліна. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* тэрыторыя М.к. скарацілася да воласці аднаго Мсціслава, дзе знаходзіліся замкі Мсціслаў і Радамля. Застаючыся памежнай крэпасцю, горад і ў мірны час прыцягваў да сабе ўвагу вял. князя. Так, у 1523 воласць Мсціслава абавязана была выдзеліць 1200 злотых на ўтрыманне ў замку 600 драбаў. М.к. праіснавала да сярэдзіны 1527, калі кн. Міхаіл Іванавіч, застаўшыся без нашчадкаў па мужчынскай лініі, прызнаў за прыёмнага сына каралевіча Жыгімонта Аўгуста, на якога і адпісаў княства. Апошні ж даў яму землі былога княства ў трыманне «да жывата». М.к. было канчаткова скасавана. Маскоўская галіна князёў Мсціслаўскіх праіснавала да 1622, калі памёр апошні яе прадстаўнік па мужчынскай лініі Іван Фёдаравіч. Пасля гэтага тытул князёў мсціслаўскіх у той час, калі Мсціслаў уваходзіў у склад Рус. царства і Рас. імперыі, насілі цар Аляксей Міхайлавіч (1654—72) і прадстаўнікі імператарскага дома Раманавых, пачынаючы з Кацярыны II (1772—1917).

*Літ.*: Wolff J. Kniazowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa. 1895. S. 263—273; Мятлев Н. К родословию князей Мстиславских // Сб. статей, посвященных Л.М.Савелову. М., 1915; Раевский П.М. Род царя и царевен и князей Шуйских и угасший род князей Мстиславских и Ижеславских. Париж, 1957; Krupska A. Udzielne księstwo mścisławskie pod rządami Litwy // Prace historyków Uniwersytetu śląskiego. Katowice, 1971. T. 2; Мяцельскі А.А. Фарміраванне і тэрытарыяльнае развіццё Мсціслаўскага княства сярэдзіны XII—пачатку XVI ст. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2001. № 3.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Мсціслаўская бітва 1386.** Адбылася 29 крас. паміж войскам ВКЛ на чале з князямі *Свідрыгайлам, Карыбутам, Лугвенам, Вітаўтам* і Канстанцінам Альгердавічам і войскам вял. князя смаленскага *Святаслава Іванавіча*. Падтрымліваючы выступленне кн. *Андрэя Альгердавіча* ва ўнутрыпаліт. барацьбе ў ВКЛ, Святаслаў Іванавіч прагнуў найперш вярнуць сабе страчаную раней Мсціслаўшчыну. Некалькі тыдняў Святаслаў спусташаў воласць, 18 крас. аблажыў Мсціслаў. Нягледзячы на штурмы, падкопы і тараны, аблога не мела поспеху. 29 крас. да горада падышлі войскі ВКЛ. Святаслаў заўважыў іх набліжэнне здалёк па сцягах, падрыхтаваўся да бою і першы атакаваў праціўніка. На берагах р. Віхра пачалася бітва. Калі загінуў прабіты кап'ём Святаслаў, яго ратнікі кінуліся ўцякаць. Пераможцы гналіся за імі да Смаленска. Там запатрабавалі ад смалян выкупу і пасадзілі на смаленскі пасад сына Святаслава Юрыя як данніка ВКЛ.

*Літ.*: Краснянский В.Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии). Вильна, 1912; Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Lwów; Warszawa, 1922; Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 66, 145; 1980. Т. 35. С. 67, 70, 88, 100, 113—114, 121, 136, 157—158, 184, 205, 226—227.

*Генадзь Сагановіч.*

**Мсціслаўскі езуіцкі калегіум.** Езуіты трымалі ў г. *Мсціслаў* у 1690—1711 місію, у 1711—79 рэзідэнцыю, у 1779—1820 калегіум. Сродкі на стварэнне місіі ахвяравала мясцовая шляхта. У 1708 місія разбурана шведамі. Новая камяніца для рэзідэнцыі збудавана ў 1764—79, пашырана ў 1796. Спачатку езуіты мелі ў Мсціславе невял. драўляны касцёл, новы пабудаваны таксама з дрэва ў 1707. У 1730—48 па-




Касцёл **Мсціслаўскага езуіцкага калегіума**. Фота пач. 20 ст.

будаваны мураваны касцёл Міхала Архангела. Калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Гарадку, Кадзіне, Клімавічах, Кулікове, Лазовіцы, Расне, Старадубе, Халобліне, Шумячы. У 1691 пры місіі адкрыта ніжэйшая школа, у сярэдзіне 18 ст. тут выкладаліся філасофія, маральная тэалогія, матэматыка, гісторыя. Пасля пераўтварэння ў калегіум праграма стала характэрнай для такога тыпу навуч. установ, выкладаліся таксама франц., ням. і рус. мовы. У 1725 адчынена муз. бурса, у 1740 — аптэка, каля 1785 — канвікт (пансіён), была б-ка. У 1820 калегіум зачынены.

Касцёл — 3-нефавая базіліка з трансептам і 2-вежавым гал. фасадам. Цэнтр. неф завершаны масіўнай паўкруглай алтарнай апсідай. 2-ярусныя крылы трансепта ўрэзаны ў высокія бакавыя нефы. Гал. фасад падзелены на 2 ярусы вузкім карнізам і завершаны развітым антаблементам са ступеньчатым атыкам у цэнтры і чацверыковымі вежамі па баках (верхнія ярусы не збераглісяя). У 1842 надбудаваны вял. драўляны купал на цыліндрычным светлавым барабане (не захаваўся). Сцены аздоблены шырокімі пілястрамі. Праёмы з паўцыркульнымі і лучковымі завяршэннямі. Унутры касцёла магутныя калоны з пілястрамі злучаны падпружнымі аркамі і падзяляюць храм на 3 нефы. У іх паўн.-зах. частцы размешчаны высокія хоры. Памяшканне над хорамі, нефы і бакавыя алтары перакрыты крыжовымі скляпеннямі, у апсідзе — конха з распалубкамі. Касцёл доўгі час выкарыстоўваўся як правасл. сабор, цяпер не дзейнічае. Да яго прылягаюць з Пн з боку гал. фасада 1-павярховы мураваны будынак аптэкі, з Пд каля апсіды 2-павярховы прамавугольны ў плане корпус калегіума. 2 вуглы гэтага будынка і сярэдзіна паўн.-ўсх. сцяны ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Сістэма планіроўкі калідорная з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. Калідор і пакоі 1-га паверха перакрыты крыжовымі скляпеннямі, 2-га — плоскай столлю, ва ўсх. вугле размешчана вузкая 2-маршавая лесвіца. Цяпер у будынку працуе школа-інтэрнат.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Мсціслаўскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Мсціслаў*. Размяшчаўся на пляцоўцы гарадзішча Замкавая гара 12—13 ст., на высокім правым беразе р. Віхра, ад якой, аднак, быў значна аддалены. Замак абкружалі шырокія (60—100 м) і глыбокія (больш з 25 м) яры. Пляцоўка замка была ўмацавана кальцавым валам, ад якога захаваўся значны ўчастак з ПдУ. З напольных усх. і паўд. бакоў выш. вала дасягала 6—7 м, шырыня ў аснове — 15—18 м. На яго вяршыні стаялі зрубныя абарончыя канструкцыі — гародні, абмазаныя глінай, шмат'ярусная вежа і ўязная брама. Перыметр замкавых умацаванняў перавышаў 800 м. Высокі мост на палях злучаў замак з горадам. У цэнтры М.з. ўзвышалася пабудаваная ў 15—16 ст. васьмівугольная вежа-данжон, ніжні ярус якой займаў храм. На замкавым двары знаходзіўся калодзеж, які ў час аблогі забяспечваў абаронцаў вадой. М.з. быў важнейшым стратэгічным замкам Пасожжа на мяжы ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы і перажыў шмат аблог і войнаў. У 1386 на працягу 11 дзён яго асаджала войска смаленскага кн. Святаслава Іванавіча. Абаронцы адбілі ўсе штурмы, а сцены замка вытрымалі ўдары каменямётных машын — поракаў. У перыяд вайны паміж вял. князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам (1432—39) М.з. адзіны на Беларусі не паддаўся войску апошняга і вытрымаў 3-тыднёвую аблогу. Потым былі аблогі рас. войскамі ў 1500, 1502, 1508 (двойчы) і 1514. Пасля надання Мсціславу ў 1634 магдэбургскага права замак яшчэ больш умацавалі. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала эканам. развіццё горада. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у ліп. 1654 рас. войскі (18,2 тыс. чал.) на чале з князямі А.М.Трубяцкім, Р.С.Куракіным, Ю.А.Далгарукім і С.Р.Пажарскім акружылі Мсціслаў і замак. У выніку 4 штурмаў з 18 да 22 ліп. замак быў узяты і спалены, а большасць абаронцаў загінула. Стратэгічная важнасць М.з. спрыяла хуткаму яго аднаўленню. У 1658 і 1660 жыхары замка рабілі перавароты, падоўгу сядзелі ў асадах і амаль усе загінулі. Паводле загаду цара ў канцы 1660 М.з. быў поўнасцю спалены, а апошнія 46 яго абаронцаў сасланы ў Яраслаўль. Толькі ў 1676 сойм Рэчы Паспалітай прыняў рашэнне аднавіць замак і выдзеліць для гэтай мэты грошы, артылерыю і розны рыштунак. У час *Паўночнай вайны 1700—21* М.з. узарваны ў жн. 1708 адступаючым войскам Пятра I. Пасля вайны замак адбудавалі, і ён праіснаваў да 1772, калі Мсціслаў быў далучаны да Рас. імперыі і патрэба ў М.з. адпала.

*Літ.*: Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.

*Міхась Ткачоў.*

**Мсціслаўскі кляштар кармелітаў.** Існаваў у 1620—1832 у г. *Мсціслаў*. Паводле падання, кармеліты — вайсковыя капеланы, вяртаючыся з *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, былі запрошаны мясцовай шляхтай у Мсціслаў. Спачатку яны размяшчаліся ў прыходскім касцёле. У 1622 упамінаецца кармеліцкі касцёл Успення Марыі, у 1623 віленскі біскуп Я.Валовіч даў кармелітам парафію (прыход). Пазнейшыя дакументы (архіў згарэў у 1654) называюць заснавальнікамі кляштара мсціслаўскага войскага Я.К.Мадалінскага, які даў яму 3 валокі зямлі (1618), стаў і 10 юрыдык (1638), Ю. Багдановіча, Б. Бялецкага (1618), мсціслаўскага старасту К.С.Сапегу (1622), А.Геленскага і Букоўскага (маёнтак Земнае), Пажарыскага (маёнтак Безнакаў,



1690). Кляштару належалі таксама в. Біжуны і фальварак Аслянка ў Смаленскім ваяв. У 1654 кляштар пацярпеў у час штурму Мсціслава рас. войскамі ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* (гэтыя падзеі з панарамай горада адлюстраваны на 2 насценных размалёўках). Пры падзеле ў 1687 Польскай правінцыі ордэна кармелітаў М.к.к. аднесены да Рус. правінцыі св. Юзафа, з 1756 у Літ.-Рускай (Беларускай) правінцыі св. Георгія Пакутніка. У 1691 комплекс кляштара поўнасцю згарэў, у 1717 адбудаваны. Жылы корпус увесь час заставаўся драўляным (інвентары 1817 і 1828). Мураваны касцёл пачаў будавацца, відаць, у 1732; у 1746—50 рэканструяваны архітэктарам Я.К.Глаўбіцам. Гэта мураваная 3-нефавая 6-слупавая базіліка з 2-вежавым фасадам і 5-граннай алтарнай апсідай. Сцены атынкаваныя, аздоблены пілястрамі, каля 1768, мабыць, зроблены насценныя размалёўкі. У 2-й пал. 18 ст. грашовыя ахвяраванні на кляштар давалі ў асн. мясц. шляхціцы Галынскія. Паводле інвентару 1823, у касцёле 6 алтароў, б-ка налічвала 207 кніг. У 1832 М.к.к. скасаваны. Будынкі захаваліся.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Мсціслаўскі Пустынскі Успенскі манастыр.** Існаваў каля г. *Мсціслаў* на беразе р. Аслянка (правы прыток Сажа). Паводле царк. падання, заснаваны каля 1380 мсціслаўскім кн. *Лугвенам*. Па звестках царк. гісторыка М.І.Пятрова, манастыр вядомы толькі з 1500 (архіў не захаваўся). У 1578 аддадзены каралём Стафанам Баторыем пад патранат полацкага архіепіскапа Феафана. У пач. 17 ст. стаў уніяцкім; у 2-й пал. 17 ст. пэўны час быў не заселены, падпарадкоўваўся юрысдыкцыі смаленскага уніяцкага архіепіскапа. Да 19 ст. будынкі былі драўляныя, у 1801—08 мітрапаліт Іраклій Лісоўскі пабудаваў мураваны храм Успення Багародзіцы базілікальнага тыпу. У 1839 пры настаяцелі Касікоўскім манастыр зноў стаў праваслаўным. У 1864 на месцы, дзе паводле легенды Лугвену з'явіўся абраз Багародзіцы, пабудавана новая мураваная царква Нараджэння Багародзіцы (абраз візантыйскага тыпу знаходзіўся ў манастыры да 1918). У 1865 узведзена цёплая мураваная Пакроўская царква. У 1869 царква Успення Багародзіцы перабудавана ў крыжападобны ў плане храм. У канцы 19 ст. пабудавана шмат'ярусная званіца. У 1918 манастыр зачынены. Частка будынкаў захавалася ў руінах.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Мсціслаўскі Святадухаўскі манастыр**, гл. *Тупічэўскі Святадухаўскі манастыр.*

**Мсціслаўскія**, Лугвенавічы, княжацкі род у ВКЛ, адгалінаванне Альгердавічаў. Паходзілі ад сына Альгерда *Лугвена*, які пасля смерці брата Карыгайлы (1390) атрымаў *Мсціслаўскае княства*. Найб. вядомыя:

Юрый (1395?—1458?), сын Лугвена ад шлюбу з Марыяй, дачкой вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога. У 1422 у складзе рады вял. князя літоўскага Вітаўта, у 1431 — Свідрыгайлы. З восені 1432 служылы князь у Ноўгарадзе. Відаць, удзельнічаў у вайне паміж вял. князямі Жыгімонтам Кейстутавічам і Свідрыгайлам на баку апошняга, пасля яго паражэння страціў Мсціслаўскае княства з інш. вотчынамі (Цяцерын, Княжыцы, магчыма, Магілёў), з вясны 1438 зноў у Ноўгарадзе. У 1440 новы вял. князь літоўскі Казімір вярнуў яму вотчыны, аднак па дарозе ў ВКЛ Юрый узначаліў паўстанне супраць вял. князя ў Смаленску, дзе быў абвешчаны князем. Пасля падаўлення паўстання ў 1441 уцёк у Маскву, каля 1443 памілаваны Казімірам, да 1444 зноў быў служылым князем у Ноўгарадзе. У 1445 падтрымаў кн. Міхаіла Жыгімонтавіча ў яго выступленні супраць Казіміра, за што зноў пазбаўлены Мсціслава, які быў перададзены кн. Васілю Яраславічу Бароўскаму (гл. ў арт. *Яраславічы*). У 1448 зноў атрымаў даравання і ўсе вотчыны. У 1458 апошні раз запрошаны княжыць у Ноўгарад, адтуль праз некалькі месяцаў вярнуўся ў Мсціслаў.



Да арт. **Мсціслаўскія**. Пячатка Юрыя, сына Лугвена. 1422.

Яраслаў Фёдар (1411—1.9.1435), сын Лугвена ад другога шлюбу. Загінуў у *Вількамірскай бітве 1435*, дзе змагаўся на баку Свідрыгайлы.

Іван (?—да 1489), сын Юрыя. Валодаў Мсціславам, Цяцерынам, Княжыцамі, Паповай Гарой, Дрокавам і інш. валасцямі, магчыма, Магілёвам. Пасля яго смерці засталіся непаўналетнія дочкі Настасся (каля 1496 выйшла замуж за кн. Сямёна Міхайлавіча Алелькавіча) і Ульяна. Апошнюю вял. князь літоўскі Аляксандр у 1499 аддаў замуж за кн. Міхаіла Іванавіча Заслаўскага (гл. ў арт. *Заслаўскія*), якому перадаў частку Мсціслаўскага княства і дазволіў карыстацца прозвішчам М. З яго сыноў малодшы, Васіль, памёр раней за бацьку, а старэйшы, Фёдар, у 1526 з'ехаў у Маскву, дзе яго нашчадкі карысталіся прозвішчам М. да згасання іх роду ў 1622.

***Вячаслаў Насевіч.***

**мужыкі**, мужыкі цяглыя, адна з назваў *цяглых сялян* у афіцыйных актах ВКЛ 15—16 ст.; феадальна-залежныя сяляне, якія выконвалі ў асноўным *паншчыну*. Акрамя працы на ворыве, у панскім маёнтку, абавязаны былі выконваць вартавую павіннасць, рамантаваць і падтрымліваць у належным стане масты і дарогі, хадзіць з падводамі (перавозіць панскія тавары). Плацілі таксама сярэбшчыну і выконвалі некаторыя інш. павіннасці.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Мужылоўскі** Андрэй (1580-я г.—1640-я г.), беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, дзеяч праваслаўнай царквы. Прэсвітэр, з канца 1620-х г. слуцкі пратапоп. У 1631 пастрыгся ў манахі пад імем Анатолій і стаў іераманахам Кіева-Пячэрскай лаўры. Выступаў супраць Берасцейскай уніі 1596. У «Водпісе на ліст уніятаў віленскіх» (на старабел. мове, 1616) пад уплывам «Трэнаса» М.*Сматрыцкага* асуджаў учынкі «сына-уніята», які здрадзіў інтарэсам правасл. народаў Беларусі і Украіны, знішчальна характарызаваў апалагетаў рымска-каталіцкага касцёла. У кн. «Антыдотум» («Antydotum», 1629, на польскай мове), скіраванай

супраць «Апалогії» Сматрыцкага, М. падкрэсліваў значэнне антыуніяцкіх твораў Сматрыцкага, але асуджаў яго за тое, што ён, на думку М., перайшоў ва уніяцтва не па ідэйных меркаваннях, а спакушаны прывабнымі абяцанкамі рымска-каталіцкага касцёла. Адзін з першых спрабаваў аддзяліць царк.-багаслоўскую л-ру ад свецкай, указваў на гіст. характар творчасці Хрыстафора Філалета, Клірыка Астрожскага. На яго «Антыдотум» Сматрыцкі адказаў з'едлівым творам «Экзэтэзіс» (1629). М. быў адным з прэтэндэнтаў на пасаду кіеўскага мітрапаліта пасля смерці Іова Барэцкага. У 1631 актыўна ўдзельнічаў у адабранні ва уніятаў Сафійскага сабора ў Кіеве на карысць правасл. мітраполіі.

***Уладзімір Каroткі.***

**Мураванкаўская царква Раства Багародзіцы,** храм абарончага тыпу, помнік готыка-рэнесансавай архітэктуры. Узведзена паміж 1516 і 1542 у в. Мураванка Лідскага пав. (цяпер Шчучынскі р-н) у тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы-пальчаткі на вапнава-пясчанай рошчыне. Кцітарства дакладна не вызначана. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 была пашкоджана і аднаўлена праз некалькі гадоў. У 1706 яе абстралялі войскі шведскага караля Карла XII. Знаходзілася ў запусценні да 19 ст. Аднаўлена паводле адных крыніц у 1817, паводле іншых — у 1822. У час рамонту перароблена завяршэнне франтонаў і папраўлены дах. У 1871—72 зах. вежы надбудаваны на сажань, паўн.-зах. вежа прыстасавана пад званіцу, да гал. фасада прыбудаваны прытвор, ва ўсх. вежах зніклі драўляныя ўсходы, замуравана частка байніц. У адзін з рамонтаў у перадалтарнай частцы пабудавана мураваная сцяна, якую прыбралі ў 1920—30-я г. У 19 ст. вакол храма пастаўлена агароджа. У 1920 прыстасаваны пад касцёл, з 1990-х г. зноў царква.

М.ц. — 4-стаўповая зальная пабудова, заканчваецца з У вял. алтарнай апсідай паўкруглай у плане формы. Па вуглах фланкіравана вежамі, першапачаткова аднолькавай вышыні. Іх вітыя ўсходы вялі да байніц абарончага пояса паддашка. Тарцовыя сцены першапачаткова завяршаліся, напэўна, франтонамі фігурнай формы. Асн. аб'ём накрыты 2-схільным дахам, вежы — шат-



**Мураванкаўская царква Раства Багародзіцы.**

рамі. Фасады, вежы, франтоны ўпрыгожаны яруснай кампазіцыяй у выглядзе плоскіх атынкаваных арачных нішаў. Узмацняе жывапіснасць фасадаў дэкаратыўны пояс, зроблены з перапаленай цэглы, пакладзенай над парэбрыкам у шахматным парадку. Храм мае адзін уваход, завершаны аркай паўцыркульнай формы. Ён акцэнтаваны нішай спічастай формы і валікавай цягай, што ахоплівае яго суцэльнай стужкай. Слядоў краты-герсы над уваходам у час натурных даследаванняў не выяўлена. Зах. частку храма на шырыню гал. нефа займаюць мураваныя хоры. Унутраная прастора перакрыта зорчатымі і сотавымі скляпеннямі. Асвятляецца праз вокны, першапачаткова стральчатай формы, зробленыя ў кожнай травеі бакавых нефаў. Звонку адхоны вокнаў былі аформлены 3 радамі прафіляванай цэглы. Інтэр'ер храма не быў аздоблены фрэскамі, а толькі таніраванай тынкоўкай. У апсідзе былі зроблены 3 байніцы. Пад храмам размяшчаецца скляпеністае сутарэнне. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 132.

*Літ.:* Иодковский И.И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности. М., 1915. Т. 6; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 121—124; Кушнеревич А.Н. Церковь в д. Мурованка: Архитектурно-археологическое исследование // Строительство и архитектура Белоруссии. 1987. № 1; Яго ж. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Мураванкаўскай царквы // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 5; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст.: Гістарычнае і архітэктурна-археалагічнае даследаванне. Мінск, 1993. С. 71—83; Шчакаціхін М.М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. 2 выд. Мн., 1993. Т. 1. С. 254—256; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура бел. барока. Мн., 2001. С. 39.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Мурашка** Дзяніс (?—пасля 1671), кіраўнік атрада беларускіх сялян у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, наказны беларускі палкоўнік. Арганізаваны ім у 1656—57 атрад дзейнічаў у Менскім і Аршанскім пав., рабіў рэйды па шляхецкіх маёнтках. Яго рэзідэнцыямі былі Ігумен (у 1656) і Камень (з 1657) у Менскім пав. У вер. 1658 перайшоў на бок Рэчы Паспалітай, вёў баявыя дзеянні супраць рас. войск ва ўзаемадзеянні з І.*Нячаем* і С.Аскеркам. 22.5.1659 сойм Рэчы Паспалітай падараваў М. шляхецтва. У снеж. 1664 здзейсніў рэйд у Ноўгарад-Северскі пав., у студз. 1665 — у ваколіцы Чарнігава. У маі 1665 на шляху паміж Старадубам і Гомелем яго атрад (400 чал.) разбіты, а сам ён паранены. Служыў у войску гетмана ВКЛ П.Я.Сапегі.

*Літ.:* Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 4—5. СПб., 1863—67; Акты Московского государства. Т. 1—3. СПб., 1890—1901; Пʼянкоў А.П. Паўстанне Дзяніса Мурашкі // Весці АН БССР. 1949. № 1; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995.

**Мурмеліус** Станіслаў, друкар і кнігавыдавец 16 ст. Паходзіў з Польшчы. У 1558 запрошаны канцлерам ВКЛ М.*Радзівілам* Чорным узначаліць *Берасцейскую друкарню*, якая пасля смерці Б.*Ваяводкі* бяздзейнічала. Першай кнігай, выдадзенай М. да ліст. 1558, быў зборнік рэліг. песень С.Зарэмбы «Песні хвал боскіх». На працягу 1558—61 ім надрукавана 16 твораў на польскай мове. З іх вядомы: «Два пасланні» (1559) — адказ папскаму нунцыю Ліпамано, дзе крытыкуецца царк.-рэліг. палітыка рымскай курыі і яе ўмяшанне ў справы інш. краін; «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчынай» (1560); прававыя творы Б. *Граіцкага* — «Артыкулы права Магдэбургскага», «Судовы працэс» (1560) і інш. Магчыма, М. удзельнічаў у падрыхтоўцы да выдання *Берасцейскай Бібліі* (1563). Каб палепшыць фінансавае становішча друкарні, М. выдаваў сваім коштам хадавыя кнігі свецкага зместу, але без пазначэння месца выдання і выдаўца.



Сродкі на публікацыю рэліг. л-ры даваў Радзівіл. Якасць выданняў М. сведчыць пра дасканаласць яго выдавецкага і друкарскага майстэрства. З 1570 М. знаходзіўся ў Кракаве, дзе трапіў у даўгавую турму, адкуль яго вызваліў выдавец М.Шарфенберг. Далейшы лёс М. невядомы.

*Валерый Пазднякоў.*

**Мухавецкі канал**, гл. *Каралеўскі канал.*

**Муханаў** (Муханов) Павел Аляксандравіч [6 (17).1.1798—16 (28).12. 1871], расійскі дзяржаўны і вайсковы дзеяч, гісторык. Праўдзейны тайны саветнік, чл. Дзярж. савета (1861). З дваран. Вучыўся ў Маскоўскім ун-це і Школе калонаважатых. З 1815 служыў у Генштабе. Удзельнічаў у рус.-турэцкай вайне 1828—29, падаўленні паўстання 1830—31 у Польшчы, Літве і Беларусі. У 1834 пакінуў вайсковую службу, заняўся публікацыяй рукапісаў, якія набыў у Польшчы. З 1842 віцэ-прэзідэнт Савета нар. адукацыі ў Польскім каралеўстве, з 1844 папячыцель Варшаўскай навучальнай акругі, з 1856 гал. дырэктар урадавай камісіі ўнутраных і духоўных спраў. З 1869 старшыня Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу. Апублікаваў шмат дакументаў па гісторыі Польшчы і рас.-польскіх адносінах: «Помнікі XVII ст.», «Сапраўдныя сведчанні пра ўзаемныя адносіны Расіі і Польшчы, пераважна ў час самазванцаў» (абедзве 1834), «Запіскі гетмана Жалкеўскага пра Маскоўскую вайну» (1835, 2-е выд. 1871), «Штурм Прагі 24 кастрычніка 1794 г.» (1835). У кн. *«Зборнік Муханава»* (1836, 2-е выд. 1866) змясціў дакументы з копій кніг Метрыкі ВКЛ лацініцай, што захоўваліся ў Варшаве: дагаворныя граматы Вітаўта, Казіміра, лісты вял. князёў літоўскіх да крымскіх ханаў, прывілеі на магдэбургскае права Полацку 1498 і Менску 1499, абласныя прывілеі і інш.

*Літ.*: Погодин М.П. В память о П.А.Муханове, 1798—1871 // Рус. старина. 1872. Кн. 2; Ивановский А.Д. П.А. Муханов. СПб., 1872; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 40—44.

*Дзмітрый Караў.*

**Мухлінскі** Антон Восіпавіч [1808, в. Саснова Навагрудскага пав.— 13(25).10.1877], беларускі усходазнавец, гісторык, фалькларыст. З сям'і дробнага шляхціца. Скончыў павятовую школу пры кляштары трынітарыяў у Маладзечне. Каля 1822 паступіў у Віленскі ун-т, які скончыў у 1826 або 1827 са ступенню кандыдата юрыспрудэнцыі. Пасля вучыўся ў Пецярбургскім ун-це і Усходнім ін-це пры міністэрстве замежных спраў. У 1832 здзейсніў першае падарожжа ў Стамбул, у 1834—35 — у Егіпет, пасля неаднаразова вандраваў па Зах. Еўропе, у 1868 ездзіў на Блізкі Усход, у 1869 — у Егіпет. З 1835 ад'юнкт Пецярбургскага ун-та, выкладаў арабскую мову, з 1839 экстраардынарны праф. кафедры асманскай філалогіі, выкладаў турэцкую мову, гісторыю і геаграфію. У 1845—49 працаваў у Гал. б-цы Варшаўскага ун-та. Пасля да 1866 у Пецярбургскім ун-це, з 1853 ардынарны прафесар, з 1859 дэкан ф-та ўсх. моў. З яго кнігі «Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татараў» («Исследование о происхождении и состоянии литовских татар», С.-Петербург, 1857; 2 выд. Мн., 1993) пачалося вывучэнне бел. тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, урыўкі з якіх, у т.л. з кітабаў, М. ўпершыню транслітараваў. На падставе выяўленых ім у Публічнай б-цы ў Пецярбургу дакументаў ажыццявіў выданне «Лісты Уладзіслава IV да Крыштофа Радзівіла, польнага гетмана В.К.Літоўскага, напісаныя ў 1612—1632» («Listy Władysława IV do Krzysztofa Radzwiła hetmana polnego W.X.Litewskiego pisane 1612—1632 roku z autografów Biblioteki Cesarskiej w Petersburgu», Кракаў, 1867).

*Тв.*: Праздники, забавы, предрассудки и суеверные обряды простого народа в Новогрудском повете Литовско-Гродненской губернии // Вестник Европы. 1830. № 14—16; Materiały do dziejów Kościoła polskiego z języków wschodnich // Pamiętnik religijno-moralny. 1857. T. 32—33; 1858. T. 1—2; 1860. T. 6; 1862. T. 9; Zdanie sprawy o Tatarach litewskich... w r. 1858 // Teka Wileńska. 1858. № 4—6; Źródłosłownik wyrazów, które przeszły ... do naszej mowy z języków wschodnich. Peterbugr, 1858.

*Літ.*: Kotwicz W., Kotwiczówa M. Orientalista Antoni Muchliński: Życie i dzieła. Wilno, 1935; Stanisz T. Antoni Muchliński, orientalista polski // Rocznik Tatarski. 1935. R. 2; Крачковский И.Ю. Очерки по истории русской арабистики. М.; Л., 1950; Каханоўскі Г.А., Малаш Л.А., Цвірка К.А. Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989.

*Валерый Пазднякоў.*

**мушкет**, ручная агнястрэльная зброя буйнога калібру (18—20 мм) з кнотавым замкам. З'явіўся ў пач. 16 ст. ў Італіі і Іспаніі, распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе, у ВКЛ вядомы ў 17 ст. Быў гладкаствольны, стралялі звычайна з падстаўкі-сошкі. Асн. зброя пяхоты і драгунаў.

**Мцэнск** (цяпер горад, цэнтр Мцэнскага р-на Арлоўскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад на р. Зуша, правым прытоку Акі. Упершыню ўпамінаецца пад 1146. Уваходзіў у склад Чарнігаўскага княства. Пасля *бітвы каля Сініх Вод 1362* трапіў пад уплыў ВКЛ. Уладальніцкая прыналежнасць М., як і *Любуцка,* на той час дакладна не вядома. Традыцыйна М. адносяць да *Навасільскага княства*, але князі Хацетаўскія, уладанні якіх знаходзіліся ў *Карачаўскім княстве,* былі мцэнскімі баярамі, з чаго можна зрабіць выснову аб карачаўскай прыналежнасці М. Лічыцца, што трывала М. трапіў пад уладу ВКЛ пры Вітаўце падчас *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08.* Пасля захопу ён зроблены цэнтрам намесніцтва. Паводле легенды, толькі ў 1415 (жыхары М.) прынялі хрышчэнне. З 1422 упамінаецца мцэнскі намеснік Рыгор Пратасьеў. У гэты год ён разам з Юрыем Раманавічам Адоеўскім нагнаў і разбіў хана Барака, які вяртаўся з палона з-пад Адоева. У 1424 мцэнскі намеснік дапамагаў адоеўскаму князю адбіць напад татар хана Куйдадата. Такім чынам, М. і Адоеў паспяхова супрацьстаялі намаганням Арды аднавіць выплату даніны з зямель, якія былі ўжо часткай ВКЛ. У канцы 1430 Пратасьеў пасля няўдалай 3-тыднёвай аблогі М. падманам быў захоплены ў палон татарскім князем Айдарам, але адпушчаны ў Ардзе ханам Улу-Мухамедам. У ходзе Бялёўскай бітвы 1437 паміж маскоўскім войскам Дз.Ю.Шамякі і татарамі Улу-Мухамеда мцэнскі намеснік Пратасьеў перайшоў на бок апошніх, з-за чаго маскоўскае войска пацярпела паражэнне. Іншымі мцэнскімі і любуцкімі намеснікамі былі: Іван Юр'евіч Трубяцкі (1486—90), Барыс Сямёнавіч Аляксандраў (да 1492), Няміра Якубавіч (памёр у 1494), Багдан Сямёнавіч Сапега (1494—96). У 1456 М. спалены разанцамі, у 1480 спустошаны ханам Ахматам, з канца 1480-х г. уцягнуты ў памежныя кан-

флікты з Вял. княствам Маскоўскім. У час літ.-маскоўскай вайны 1487—94 з М. высылаліся атрады, якія актыўна дзейнічалі супраць маскоўскіх дазораў. У жн. 1492 горад захоплены і спалены маскоўскім ваяводам Фёдарам Целяпнёй-Абаленскім, але паводле дагавора 1494 вернуты ВКЛ. У 1500 М. двойчы заняты бялёўскімі князямі, якія служылі вял. князю маскоўскаму Івану III. У другі раз мцэнскія баяры палічылі за лепшае прысягнуць маскоўскаму гасудару. У 1503 паводле 6-цігадовага літ.-маскоўскага перамір'я горад юрыдычна ўвайшоў у склад Вял. княства Маскоўскага. Доўгі час пасля гэтага ён заставаўся важным цэнтрам барацьбы з татарскай небяспекай.

*Літ.*: Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892.

***Віктар Цемушаў.***

**мыта**, мыт, цло, грашовы збор, які бралі ў ВКЛ з мясцовых купцоў за ўвоз з-за мяжы або вываз тавараў за мяжу і з іншаземцаў за продаж тавараў на мясцовых рынках ці правоз іх па тэрыторыі дзяржавы. М. аддавалі і некаторымі таварамі (напр., тканінай); кошт тавараў і суму М. запісвалі ў *мытныя кнігі*. М. збіралі *мытнікі* ў спец. памяшканнях — *каморах* і прыкаморках, дзе тавары аглядалі і ацэньвалі. Да 15 ст. купцы плацілі М. і буйным феадалам, па землях якіх ішлі гандлёвыя шляхі (гасцінцы). Пратэсты і скаргі гарадоў прымусілі вярхоўную ўладу ў 16 ст. пакінуць скарбу манапольнае права збіраць М. (часам яно перадавалася ў арэнду). У 1570 устаноўлены 2 стаўкі М.: мясцовыя купцы плацілі 1 грош з кожнай капы (г.зн. 60) грошаў у кошце тавару (1,7% агульнага кошту); замежныя — 2 грошы з капы (3,4% кошту). Да сярэдзіны 17 ст. соймавыя пастановы павялічылі мытны збор у 3—4 разы. З сярэдзіны 16 ст. да 1764 ад платы М. за вываз прадуктаў з сваіх маёнткаў (збожжа, лес, лён, пянька, паташ і інш.) вызвалялася шляхта.

*Літ.*: Довнар-Запольский М.В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Wawrzyńczyk A. Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim Księstwem Litewskim i Rosją w XVI wieku. Warszawa, 1956; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966.

***Зіновій Капыскі.***



Да арт. **Мыта**. Прывілей вял. князя Аляксандра аб вызваленні купцоў Вільні ад плацяжу мыта на ўсёй тэрыторыі ВКЛ. 1492.

**мытная справа**. З моманту стварэння ВКЛ збор *мыта* пераходзіў ад удзельных князёў да вял. князя літоўскага. У пач. 15 ст. гэта стала вялікакняжацкай дзярж. справай, а ў 16 ст. вярхоўная ўлада канчаткова замацавала за сабой манапольнае права спагнання мыта. Сістэма мытных плацяжоў уваходзіла ў ведамства дзярж. скарбу. Яго ўзначальваў падскарбі земскі, якому дапамагалі пісары скарбныя (скарбовыя), некаторыя з якіх з цягам часу атрымалі мытную спецыялізацыю. Распараджэнні ў мытнай сферы выдавалі вял. князь і Рада ВКЛ. Гаспадар прызначаў *мытнікаў*, якія збіралі падаткі, здаваў мыта ў арэнду і г.д. Пры вял. кн. Аляксандру [1492—1506] для паляпшэння збору мыта былі праведзены рэформы, створаны мытныя акругі (таксама называліся мыта). У 16 ст. іх было 11: валынскае, віленскае, віцебскае, дзісненскае, кіеўскае, ковенскае, магілёўскае, навагародскае, падляшскае, полацкае і смаленскае мыта. Цэнтрамі акруг былі буйныя рэгіянальныя мытніцы — гал. мытныя *каморы*, якіх часам было некалькі. Ім падпарадкоўваліся мытныя каморы і іх падраздзяленні — прыкаморкі. У мястэчках і вёсках знаходзіліся пасты мытнай варты. Каморы і прыкаморкі знаходзіліся ў Ашмянах, Бабруйску, Бярэзіне, Віцебску, Красным Сяле, Крычаве, Магілёве, Мазыры, Менску, Навагародку, Полацку, Радашковічах, Рэчыцы і дзесятках інш. гарадоў княства. Вядомы ўказы аб стварэнні мытніц у Дрысе (1547), Дзісне (1570). Каморы знаходзіліся толькі ў велікакняжацкіх гарадах, а прыкаморкі і ў прыватнаўласніцкіх маёнтках. Шляхта, па меры росту яе прывілеяў, пачала патрабаваць не размяшчаць на яе землях камор. У выніку кароль часам даваў шляхціцам новыя прывілеі ў абмен на згоду адчыніць каморы і прыкаморкі на іх землях.

На чале акругі альбо гал. каморы стаялі адкупшчыкі (пры самай распаўсюджанай сістэме кіравання мытнымі зборамі — водкупе ці арэндзе) альбо велікакняжацкія спраўцы-верныя (спецыяльна прызначаныя асобы пры сістэме «вернай рукі»). У 2-й пал. 1530—канцы 1540-х г. усе акругі і каморы атрымала ў загадванне каралева Бона Сфорца. У выніку мытная справа значна прасунулася ў сваім развіцці, а даходнасць мытных устаноў павялічылася ў 3 разы. З канца 1540-х г. перадача М. ў арэнду была адноўлена. Мытны водкуп патрабаваў вял. капіталаўкладанняў, і за яго браліся звычайна спец. кампаніямі. У асноўным мытныя каморы ў ВКЛ бралі ў арэнду яўрэі, бо шляхта пагардліва глядзела на занятак гандлем і збор падаткаў. Пры арэнднай сістэме падскарбі земскі не ўмешваўся ва ўнутраныя справы мытніцы. З арандатарам ад імя вял. князя заключаўся кантракт, на падставе якога і ўстанаўліваўся ўнутраны распарадак у



мытнай установе. Пры Казіміру, Аляксандру і ў першыя гады праўлення Жыгімонта I (канец 15—пач. 16 ст.) практыкавалася паведамленне насельніцтву акругі пра ўмовы арэнды. Пазней мытнік атрымліваў на рукі спец. ліст-кантракт, дзе вызначаліся арэндныя артыкулы, аб'ём і тэрміны ўнясення арэнднай платы. Першапачаткова плата збіралася часткова наяўнымі грашыма, часткова таварам (сукнамі), пазней толькі наяўнымі. Арэндная плата ўносілася звычайна кожныя паўгода ў скарб альбо выдавалася па квітах манахам, стральцам, пушкарам і крэдыторам скарбу. Канчатковы разлік з мытнікамі праводзілі асобы, спецыяльна прызначаныя вял. князем. Важнай асаблівасцю арэнднай сістэмы была магчымасць уплаты арандатарамі часткі альбо поўнай платы наперад, чым асабліва карысталіся вял. князі ў гады войнаў. Арэндныя кантракты агаворвалі і тое, што датычыла бязмытных лістоў (бяспошліннага правозу), надзвычайных абставін (вайны, эпідэміі, неўраджаю), што магло прывесці да змяншэння мытнага даходу. Калі мытнікі аказваліся дрэннымі плацельшчыкамі, то вял. князь і падскарбі земскі «скідвалі» арандатара. Страты ад разрыву кантракту той мусіў выплачваць са сваіх сродкаў. У кантрактах агаворваліся і ўмовы аб прамыце (штраф за кантрабанду). Сума прамыта падзялася пароўну паміж мытнікамі і скарбам.

Мытнікі-адкупшчыкі звычайна кіравалі гал. мытнай каморай. Яны самі ўстанаўлівалі парадак збору і памеры мыта. Пры кожнай мытніцы былі спраўцы (пабарцы) і пісары мытныя, якія прызначаліся мытнікамі. Мыта бралася паводле выдадзенай вял. князем мытнай уставы (тарыфу). Уставы былі агульныя альбо толькі па асобных таварных групах, як «Устава мыта старога» 1569. Пры забароне пэўнага віду тавараў мытнікі маглі яго «гамаваць» (затрымліваць). Для затрымання кантрабанды і спагнання прамыта часта выкарыстоўваліся спецыяльна прыкамандзіраваныя гаспадарскія дваране. Яны кіравалі і антыкантрабанднай агентурнай сеткай са *шпегаў*. Пры неабходнасці гаспадарскім дваранам павінны былі аказваць дапамогу мясцовыя ўлады, бліжэйшыя намеснікі, дзяржаўцы і г.д. Але «пракрадванне» праз мытныя каморы і прыкаморкі было звычайнай з'явай.

З 15 ст. ў кожнай каморы і прыкаморку мелася «мытная скрынка», дзе захоўвалася мыта. Мытны пісар ці дзяк вёў спец. *мытную кнігу*, куды запісвалася прозвішча, імя і месца жыхарства купца, адкуль і куды вязе тавар, яго кошт, сума ўзятага мыта. Непасрэдна аглядалі тавар і збіралі мыта (рабілі «пабор») пабарцы ці «спраўцы пабаровыя». У каморы іх было не менш за 10 чал. У кожный мытнай установе мелася пячатка. Па выніках дзейнасці мытніцы штогод падавалі вял. князю справаздачу — «лічбу». Пры сістэме «вернай рукі» зборам мыта загадвалі адмысловыя мытнікі — «спраўцы верныя». Іх звычайна было некалькі чалавек: 1—2 з мясцовых жыхароў, дваранін гаспадарскі і пісар мытны. Усе разам яны былі адказныя за дзейнасць мытніцы. Стандартная працэдура тагачаснага мытнага афармлення («шацунка») выглядала наступным чынам. Купец з таварам з'яўляўся ў мытную камору ці пасля накіраванага ім звароту да яго прыходзілі на гасціны двор пабарцы. Яны «шацавалі» (даглядалі) тавар і «давалі цэхі» (ставілі пячаткі). Пасля ўплаты мыта купец атрымліваў квіт аб аплаце мыта, які мусіў прад'яўляць на кожнай наступнай мытніцы. Мытніцы былі невял. будынкамі, таму калі ў населеным пункце быў гасціны двор, то купец быў абавязаны прывезці свае тавары для дагляду туды. Купцам забаранялася спыняцца ў прыватных асоб, пакуль тавар не будзе агледжаны.

Мытныя правілы ў ВКЛ адрозніваліся складанасцю і вял. колькасцю фармальнасцей. Існавалі спец. патрабаванні, як і дзе купец павінен аплаціць мыта, атрымаць квіт і г.д. Калі старое і новае мыта здавалася ў арэнду розным асобам, то тавар аглядалі пабарцы абодвух мыт. Калі купецкі тавар быў новы і яшчэ не ўключаны ва ўставу, а на мытніцы было складана вылічыць яго мытную вартасць, то яго накіроўвалі ў гал. камору ці ў сталіцу Вільню для вызначэння дакладнай платы.

Існавалі асаблівасці для іншаземцаў. У 16 ст. купцы, якія ад'язджалі «ку Москве або к Туркам», мусілі плаціць мыта як пры ўвозе, так і пры вывазе сваіх тавараў праз мытную мяжу ВКЛ. Для абароны ўнутраннага рынку княства мыта з іншаземных тавараў бралася большае, чым з мясцовых. Купцы павінны былі рухацца толькі па вядомых і дакладна вызначаных гасцінцах. У 1551 наогул забаранілі купцам ездзіць па «новых» дарогах, якія знішчаліся. Для іншаземных купцоў існавалі і пэўныя забароненыя для гандлю гарады. Пропуск тавараў шляхты ВКЛ з сярэдзіны 16 ст., калі яна дабілася вызвалення ад уплаты мыта, таксама адрозніваўся вял. фармальнасцямі. Багаты шляхціц, здаючы купцам зробленыя ў яго маёнтку тавары, пасылаў разам з грузам свайго слугу «з листом своим для одмычения от поборов и от всяких мыт». Фактычна адзінай умовай правозу шляхецкага тавару была асаблівая прысяга, якую на мытніцах заслухоўвалі адмысловыя пабарцы.

Мытныя тарыфы ВКЛ першапачаткова былі вельмі простыя і паходзілі на збор даніны. Пры ўвядзенні «новых мыт» аб узгадненні іх са старымі ніхто не турбаваўся, бо імкнуліся ў асноўным да дасягнення фіскальных мэтаў. Старое «звычайнае мыта» доўгі час было адносна стабільнай велічынёй, а стаўкі «новага», ці «новапавышанага», што ўстанаўліваліся соймам з сярэдзіны 16 ст., імкліва раслі з кожнай новай пастановай. З'яўленне «новых мыт» дыктавалася асаблівымі абставінамі, у асноўным дэфіцытам бюджэту. Мытныя зборы рэдка ўзгадняліся з коштам тавару. У 16 ст. з'явіліся спецыялізаваныя мыты. Дзяржава пачала выкарыстоўваць мытную сістэму ў якасці рэгулятара знешнегандлёвай палітыкі, якая вылучалася няўстойлівасцю і адсутнасцю адзінай лініі. У ВКЛ існавала вял. колькасць відаў мыта: старое (звыклае), новапавышанае, скопнае (за скуры), памернае (за абмер тавару), важчае, вазовае, маставое, васкаўнічае, саляное, рыбнае, перавознае, дарожнае, балотнае, аргішовае (караваннае), банарт (памежнае), грэбельнае; мясц. разнавіднасці: новагародскае, менскае, берасцейскае, гарадзенскае, бельскае і шмат інш. Памежнае, саляное і васкаўнічае мыта давалі вял. прыбытак дзяржаве і знаходзіліся пад асаблівым кантролем вял. князя.

Сума штогод збіраемага мыта вар'іравалася. У пач. 16 ст. Берасце давала штогод 1100 коп грошаў, астатнія

каморы прыносілі значна менш. Да сярэдзіны 16 ст. на першы план выйшаў ковенскі гандаль. Прыбыткі з падляшскага мыта, цэнтрам якога было Берасце, займалі ужо 2-е месца. З 1490 да 1570 прыбытковасць мытных устаноў княства вырасла ў 3 разы. У 2-й пал. 16 ст. найб. прыбытковымі былі валынскае, віленска-менскае, ковенскае, магілёўскае, падляшскае і полацкае мыта.

У 1566 вял. кн. Жыгімонт II Аўгуст у сувязі з фінансавай рэформай краіны пераўтварыў падскарбія земскага фактычна ў міністра фінансаў, якому былі аддадзены і зборы з усіх мытных камор, а таксама права судзіць і выбіраць мытнікаў. Пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 і ўтварэння адзінай федэратыўнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай — мытная сістэма ВКЛ захавала сваю аўтаномнасць і адрознівалася ад польскай да 1760-х г. У 1576 сойм пастанавіў, што кароль не можа ўстанаўліваць мыта без яго згоды, а ў 1586 вырашыў не перадаваць, як раней, каралю палавіну мытных збораў ВКЛ. Статут ВКЛ 1588 вельмі дэталёва рэгуляваў М.с. На той час фактычна ўсе гарады ВКЛ мелі мытныя ўстановы. Найб. актыўна працавалі берасцейская, віленская, віцебская, гарадзенская, ковенская, магілёўская і полацкая каморы і іх прыкаморкі. Толькі за 1605 праз Берасце праехалі 573 купцы з больш чым 370 гарадоў, у тым ліку з 32 беларускіх на 2381 вазах. Развівалася мытная справа і ў прыватнаўласніцкіх гарадах. З 16 ст. уладальнік Слуцка здаваў у арэнду свае мытныя зборы. Для рэгулявання арэнды і кантролю за атрыманнем з яе даходаў у 17 ст. ў Слуцкім княстве створана асобная управа па справах мытнай арэнды на чале з адмысловым чыноўнікам — «пісарам мытным».

У 1-й пал. 18 ст. ў ВКЛ, як і ў Кароне Польскай, да старых мыт было дададзена новае экспартавае мыта — эвекта. Іншаземныя купцы плацілі 4% ад вартасці тавару, а купцы Рэчы Паспалітай — 2%. Было ўведзена новае імпартнае мыта — індукта, 4% ад вартасці тавару. Адна палавіна гэтага мыта ішла ў каралеўскі скарб, другая — у грамадскі.

У 18 ст. мытныя акругі атрымалі назвы рэпарціцыі. На іх чале стаялі суперінтэнданты (да 1779). У 1736 было 5 рэпарціцый: Літоўская (віленская, вярбілаўская, гарадзенская, менская, юрбаркская мытні), Жамойцкая (біржанская, жагараўская, палангская мытні), Інфлянцкая (віцебская, крыжбаркская, полацкая мытні), Беларуская (глуская, магілёўская, мсціслаўская мытні), Руская (берасцейская, пінская, слонімская мытні), а таксама 4 сплаўныя мытні: віцебская і дынабургская на Дзвіне, юрбаркская на Нёмане, берасцейская на Бугу. У 1764 адбылася рэарганізацыя мноства прыватных (арандаваных) мытных камор і прыкаморкаў ў дзяржаўныя. У 1765 у ВКЛ былі 3 рэпарціцыі: Літоўская (гарадзенская мытня), Руская (берасцейская, берасцейская сплаўная на Бузе, менская, пінская, слонімская) і Беларуская (віцебская, віцебская сплаўная на Дзвіне, глуская, магілёўская, полацкая). Мытнымі зборамі займалася створаная ў 1764 *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага* і яе Дэпартамент мытніц і экзекуцыі, які ў 1788—90 налічваў 585 чал.: пісараў, рэвізораў, мытнай варты і інш. На чале Дэпартамента стаяў рэгент. Для выканання пастаноў мелася асобная вайсковая каманда альбо можна было запатрабаваць дапамогу ад гетмана ВКЛ. У 1765 мытная мяжа паміж Каронай Польскай і ВКЛ была скасавана, частка мытніц ліквідавана.

У 1764 усе мыта былі зведзены ў адзіны мытны падатак — генеральнае мыта, абавязковае для ўсіх саслоўяў, у т.л. шляхты і духавенства: 8% ад вартасці тавару для айчынных купцоў і 12% для чужаземных. Адначасова былі адменены ўнутраныя пошліны за правоз тавару. Гэта ліквідавала гал. перашкоду ў развіцці ўнутранага і знешняга гандлю ВКЛ. У 1775 і 1776 прыбытак са спагнання мыта дасягнуў 1,9 млн. злотых, пры агульным даходзе скарбу 12,8 млн. злотых. Аднак націск Прусіі вымусіў адмовіцца ад генеральнага мыта ўжо ў 1766, але ў 1775 яно было адноўлена і існавала да 1795. У 1775—76 мытніцы давалі 15 % агульнага прыбытку скарбу.

У канцы 18 ст. ў сувязі з падзеламі Рэчы Паспалітай мытная сістэма ВКЛ перажывала крызіс. У 1792 замест мытных правінцый былі ўтвораны скарбавыя (фінансавыя) правінцыі, у ВКЛ іх налічвалася пяць. 31.5.1792 кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў універсал «Да чыноў мытных камор». Гэта быў апошні прававы акт, які датычыў М.с. Рэчы Паспалітай. Пасля гэтага ва ўмовах вайны і ліквідацыі дзяржавы М.с. ВКЛ канчаткова распалася.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Мелешко В.И. Таможенные книги как исторический источник // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1959. № 4; Ягож. Могилев в XVI— середине XVII в. Мн., 1988; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI— первой половине XVII в. Мн., 1966; Левко О.Н. Торговые связи Витебска в X—XVIII вв. Мн., 1989; Шостак В.П. Из истории таможни // Таможенный вестник. 1996. №2; Граница: Вехи истории пограничных войск Беларуси. Мн., 2003; Саяпин В.Ю. Пять веков гродненской таможенной службы. Гродно, 2003; Острога В. История таможенного дела и таможенного права Беларуси. Мн., 2005.

*Віктар Астрога.*

**мытнік**, службовая асоба ў ВКЛ, якая збірала пошліну (*мыта*) з купцоў за ўвоз і вываз тавараў.

**мытныя кнігі**, від актавых запісаў у ВКЛ у 15—18 ст. пра купцоў і іх тавары, правезеныя праз мытныя *каморы* ці прыкаморкі; каштоўная крыніца па сац.-эканам. гісторыі. У М.к. фіксаваліся прозвішчы і месца жыхарства купцоў, якія, адкуль і куды везлі тавары, іх кошт, сума *мыта*. Паводле М.к. (1-я пал. 17 ст.) з усяго купецтва Беларусі, якое займалася замежным гандлем, беларусаў было 80—85% (ім належала да 90% перавезеных тавараў), яўрэяў — 9—10%, палякаў, рускіх, шкотаў (відаць, шатландцаў ці ірландцаў), немцаў (пераважна з Вільні) — 4—6%. Асн. прадметы ўвозу: футра, тканіны, металы, рамесныя вырабы і інш. М.к. сведчаць, што асн. пунктамі гандлю бел. купцоў у Расіі былі Масква, Пскоў, Вял. Лукі, Таропец, Смаленск, Белы, Бранск, Вязьма; на Украіне — Кіеў, Чаркасы, Львоў, Луцк; у Прыбалтыцы — Рыга, Каралявец (Кёнігсберг); у Польшчы — Люблін, Гданьск, Торунь, Гнезна, Познань, Вроцлаў, Тыкоцін. У гарадах Расіі і Украіны гандлявалі купцы з Віцебска, Полацка, Магілёва, Менска, Оршы, Копысі, Шклова, Быхава, Мсціслава, Слуцка, Дуброўны, Лукомля, Суража, Улы, Крычава, Дзісны; у Прыбалтыцы і



Польшчы — з Віцебска, Полацка, Менска, Магілёва, Шклова, Слуцка, Пінска, Бярэсця, Гародні, Навагародка, Нясвіжа, Кобрына, Слоніма, Камянца, Міра, Мазыра, Ліды і інш., пераважна з Зах. Беларусі. Асн. гандлёвыя шляхі 15—18 ст.: рэкі Зах. Дзвіна, Дняпро, Прыпяць, Нёман і іх прытокі; больш за 20 сухапутных дарог (гасцінцаў). Найважнейшыя сухапутныя дарогі: Орша—Менск—Ваўкавыск—Шарашова—Бярэсце, т.зв. «вялікая дарога»; Полацк—Віцебск—Орша, т. зв. «гасцінец вялікі»; Пінск—Гарадзішча—Навагародак—Іўе—Вільня; Пінск—Хомск, т.зв. «дарога вялікая»; Полацк—Невель, т.зв. «вялікая Маскоўская дарога»; Магілёў—Шклоў—Копысь—Орша; Гомель—Рэчыца—Бабруйск—Менск; Менск—Глуск—Слуцк. На Вільню было 9 дарог, на Смаленск і Маскву — 10, на Люблін — 6. Зберагліся М.к. Барысава за 1708, Бярэсця за 1583 (апублікавана) і 1605, Вярбілава за 1708 і 1709, Віцебска за 1605 (апублікавана), Гародні за 1600 (апублікаваны фрагмент), 1605 і 1764, Камянца за 1708, Менска за 1709, Магілёва за 1612 і 1708, Полацка за 1616 і 1708, Рэчыцы за 1708 і 1709, Сталавічаў за 1708. М.к. пач. 17 ст. зберагаюцца ў рукапісным аддзеле б-кі Вільнюскага ун-та, 18 ст. — у рукапісным аддзеле Нац. б-кі ў Варшаве.

*Літ.*: Русско-белорусские связи: Сб. док. (1570—1667 гг.). Мн., 1963; Мелешко В.И. Таможенные книги как исторический источник // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1959. № 4; Яго ж. Новые белорусские таможенные книги первой половины XVII в. // Ист. архив. 1960. № 4; Яго ж. Очерки аграрной истории восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966.

***Зіновій Капыскі.***

**Мышскі езуіцкі калегіум**. Існаваў у в. Новая Мыш Навагародскага пав. (цяпер Баранавіцкі р-н) у 1667—93. Заснаваў кашталян навагародскі М.У.Юдыцкі, які запісаў калегіуму 105 тыс. злотых на маёнтках Баранавічы, Дамашэвічы, Старая Мыш, Сухарэльшчына, Чашэўля, Чэрніхава. Езуіты трымалі місіі ў Баранавічах і Чэрніхаве. Калегіум дзейнічаў з перапынкамі, выкліканымі судовымі спрэчкамі з рознымі прэтэндэнтамі на маёнткі, што былі запісаны калегіуму. У рэшце калегіум быў зачынены, а запісаная яму грашовая сума перададзена Варшаўскаму езуіцкаму калегіуму.

***Валерый Пазднякоў.***

**Мышскі замак.** Існаваў у 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. каля в. Старая Мыш Навагародскага пав. (цяпер Баранавіцкі р-н) на высокім правым беразе р. Мышанка. Квадратны ў плане (50 х 50 м) замак быў абнесены з У, Пд і З земляным валам (шырыня каля 15, вышыня 3,5—4 м) і абарончым ровам (шырыня 30, глыбіня да 15 м, адхоны берагоў 45°), з Пн ахаваны дрыгвяністым берагам ракі. На земляным вале і па паўн. краі замка былі драўляныя сцены з 4 вежамі ў вуглах. У 1654 у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* пасля працяглай аблогі замак узяты рас. войскамі і спалены.

*Літ.*: Ткачоў А.М. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 60.

***Міхась Ткачоў.***

**Мюнстэр** (Münster) Себасцьян (1489, Нідэрлінгенхайм, Германія—1552), нямецкі географ і картограф. Праф. Гайдэльбергскага (з 1524) і Базельскага (з 1536) ун-таў. Дапаўняў новымі картамі выданні «Дапаможніка па геаграфіі» Клаўдзія Пталамея. Аўтар «Касмаграфіі» (46 выданняў на 6 мовах). Выканаў у тэхніцы дрэварыту і выдаў дзесяткі карт асобных рэгіёнаў і краін Еўропы, у т.л. ВКЛ.

*Літ.*: Moreland C., Bannister D. Antique maps. London, 1993; Szykuła K., Szynkiewicz E. Mapy ziem dawnej Polski w wybranych atlasach biblioteki uniwersyteckiej we Wrocławiu. Warszawa, 1993; Sirko M. Zarys hiatorii kartografii. Lublin, 1999; Багров Л. История картографии. М., 2004.

***Леў Казлоў.***

**Мюнц** (Müntz) Ёган Генрых (28.9. 1727, г. Мюлуз, Эльзас—1798), мастак-пейзажыст, падарожнік. У 1748 жыў у Іспаніі, у 1749—52 — у Італіі, дзе вучыўся мастацтву, у 1753 — у Францыі, ваенны інжынер, у 1755—63 — у Англіі, у 1763 — у Грэцыі, у 1777 — у Галандыі. З 1779 (?) у Рэчы Паспалітай, жыў у Варшаве, пасля ў Гародні, дзе з 1782 маёр 2-га батальёна пешай гвардыі. Быў на службе ў пляменніка караля, падскарбія ВКЛ С.Панятоўскага. Па вайсковых і гаспадарчых заданнях ездзіў па Украіне, Малдове і Беларусі, рабіў замалёўкі гарадоў, замкаў, вёсак, тыпаў насельніцтва, пейзажы. Адначасова вёў падарожныя нататкі. У 1783 па дарозе з Украіны ў Літву рабіў на Беларусі замалёўкі палескіх вёсак, Белавежскай пушчы. Апісаў вёскі, умовы мясц. гаспадарання, адзначыў, што палескія балоты прыдатныя для меліярацыі на ўзор Галандыі. Даў характарыстыку жыхароў: «Мясцовыя насельнікі ўвогуле людзі дабрадушныя, добрыя патрыёты, яны ладна скроены і моцныя на работу». У Рэчы Паспалітай быў да 1785, пасля жыў у Германіі.



Ё.Г.**Мюнц**. Паляванне на мядзведзя ў Белавежскай пушчы. Акварэль.

*Літ.*: Д р а к о х р у с т Е.И. Альбомы-дневники И.Г.Мюнца, 1781—1783 гг. // Тр. Гос. ист. музея. М., 1941. Вып. 14; Г р ы ц к е в і ч В., М а л ь д з і с А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; B u d z i ń s k a E. Jana Henryka Müntza podróże po Polsce i Ukrainie (1781—1783): Album ze zbiorów Gabinetu Rycin BUW. Warszawa, 1982.

**Мядзел** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Мядзельскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав., паміж азёрамі Мястра і Баторын. Паводле археал. даследаванняў, у 11 ст. М. — памежны горад Полацкай зямлі на востраве воз. Мядзел, пазней з-за эпідэміі перанесены на бераг воз. Мястра пад старой назвай. Меў таксама назвы Мядзела, Мядзкол, Мядзюль. Да 20 ст. падзяляўся на Стары і Новы М. Стары М. упамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1454 з нагоды будаўніцтва тут кашталянам троцкім А.Саковічам касцёла. Уладанне Саковічаў, з 1470 Радзівілаў, Францкевічаў, з 1621 Райскіх, з 1680 Грабоўскіх, з 1687 Кошчыцаў, Дваржэцкіх, Козел-Паклеўскіх. У 1500 у час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1500—03 разбураны і разрабаваны, касцёл спалены. У 1543 пабудаваны капліца і двор, у 1754 — мураваны касцёл і кляштар кармелітаў. 6.10.1762 атрымаў магдэбургскае права і дазвол на 4 кірмашы штогод. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Вольга Князева.*

**Мядзельскі замак**. Існаваў у 15—пач. 18 ст. Размяшчаўся на востраве Замак воз. Мястра. Займаў пляцоўку гарадзішча. Складаўся з мураваных вежы і палаца, а таксама знешняга абарончага комплексу (захаваліся руіны). Меў круглую ў плане вежу-данжон ( рэшткі даследаваны ў 1981 археал. экспедыцыяй Гродзенскага ун-та). Яе знешні дыяметр 17,5 м, унутраны — 10 м, таўшчыня сцен каля 3,5 м. Паводле малюнка з карты ВКЛ 1613 Т.Макоўскага, вежа мела некалькі (мабыць, 5) ярусаў і дасягала вышыні 30 м. Па сваіх параметрах яна была блізкая да Камянецкай вежы. У 1-й пал. 16 ст. да вежы з 3 прыбудаваны прамавугольны ў плане палац з цэглы. Пляцоўка замка абведзена традыцыйным для сярэдневяковай Беларусі мурам з валуноў на вапне. Ніжняя зона падмурка складзена на гліне, самы ніжні рад камянёў — на дубовых плахах. З усх. боку таўшчыня замкавых муроў 2 м, з астатніх бакоў, прыкрытых возерам, — 1,5—1,7 м. Асн. ўпор у абароне замка рабіўся на 5 мураваных паўкруглых бастэй, размешчаных, відаць, на размяшчэнне тут гармат для стральбы ўздоўж сцен. Бастэі М.з. лічацца самымі раннімі на Беларусі і папярэднічаюць бастыёнам. У паўд.-ўсх. куце замка выяўлены падмурак цыліндрычнай вежы дыяметрам 10 м і сцены 2-метровай таўшчыні. Паводле малюнка Макоўскага, у М. з. былі 3 вежы. На замкавым дзядзінцы стаялі гасп. пабудовы, жылыя дамы з кафлянымі печамі. У 17 ст. замак дадаткова ўмацаваны ніжнім поясам абароны — земляным валам з бастыёнамі і ровам, які запаўняўся вадой з возера. Бастыёны і вал адсутнічалі толькі з усх. боку, дзе да замка блізка падступала воз. Мястра. Сувязь з берагам ажыццяўлялася па драўляным мосце на пáлях даўжынёй каля 400 м. Гіст. крыніцы сведчаць, што ў 1564 у арсенале М.з., акрамя ручной агнястрэльнай зброі, былі 2 сярэднія фальканеты і 2 серпанціны. М.з. — прыклад спалучэння асаблівасцей зах.-еўрап. фартыфікацыі з мясц. абарончымі элементамі. У час ваен. небяспекі замак служыў надзейным сховішчам для жыхароў Мядзела і ваколіц. Разбураны ў час Паўн. вайны 1700—21.

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.

*Міхась Ткачоў.*

**мядніца**, адзінка вымярэння аб'ёму. У сярэдзіне 16 ст. віленская *бочка* ўмяшчала 5 віленскіх М. У ВКЛ існавалі мясц. разнавіднасці М. Канстытуцыя 1766 устанавіла для ВКЛ стандартную М., якая складалася з 6 вял. (цэхавых) *гарцаў* або 12 малых (шынковых) гарцаў.

*Яўген Анішчанка.*

**мядовае**, даніна мёдам, якая бралася з сялян і іншых груп насельніцтва феад. уладанняў у 16—1-й пал. 19 ст. Звычайна складала палавіну збору мёду з лясных борцяў і вулляў (калод), што знаходзіліся на сядзібе плацельшчыка даніны.

**Мядэкша** Дамінік (каля 1710—2.3.1783), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. У 1733 як мечнік ковенскі ўдзельнічаў у выбарах караля Станіслава Ляшчынскага і да 1735 ваяваў на яго баку ў ВКЛ, пасля знайшоў прытулак у Малдове. Наладзіў паліт. сувязі з Я.К.Браніцкім і Радзівіламі. Дзякуючы апошнім да 1755 атрымаў пасаду ковенскага земскага падсудка, а ў 1767 — ковенскага падкаморыя. У час міжкаралеўя 1763—64 падтрымліваў К.С.Радзівіла Пане Каханку. З трыма сынамі далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*, у яе падтрымку 13.8.1768 заснаваў канфедэрацыю Ковенскага пав. (яе маршалак). 15.8.1768 выдаў універсал да ўсіх грамадзян ВКЛ з заклікам падтрымаць Барскую канфедэрацыю. Пасля некалькіх бітваў з рас. войскамі атрад М. адышоў на тэр. Прусіі. Сам М. пераехаў у г. Цешын у Сілезіі і 31.8.1771 увайшоў у склад Вайсковай рады Генеральнасці Барскай канфедэрацыі. З 1772 жыў у Памор'і, Гданьску. Пасля сойма 1776 прымірыўся з каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім, наладзіў сувязі з А.*Тызенгаўзам*. У 1779 у складзе Камісіі па справах Гарадзенскай і Аліцкай эканомій. З 1782 адышоў ад актыўнай палітыкі.

*Валерый Пазднякоў.*

**Мядэкша** Станіслаў Францішак (каля 1629—паміж 1690 і 1696), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, мемуарыст. У маладосці быў кальвіністам і служыў пры двары гетмана Я.Радзівіла. Каля 1652 перайшоў на службу да В.А.Гасеўскага, прыняў каталіцтва і імя Францішак. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, выконваў адказныя даручэнні па арганізацыі перагавораў паміж дзвюма дзяржавамі, неаднаразова выязджаў у Маскву па справах заключэння перамір'я і вяртання палонных. З 1661 каралеўскі дваранін і сакратар. Пасля забойства Гасеўскага (1662) палітычна звязаны з канцлерам К.З.Пацам, дзякуючы падтрымцы Пацаў атрымаў пасады ковенскага гродскага пісара (1666), падстарасты (1674), падсудка (1677), земскага суддзі (1690). Шмат разоў выбіраўся паслом на соймы і дэпутатам Трыбунала ВКЛ. На працягу жыцця вёў падрабязныя дыярыушы пра прыватныя і грамадскія справы. У 1690 абагульніў свае запісы, да якіх далучыў інструкцыі і лісты, дзе асвятляліся грамадскія справы. Твор М. — каштоўная крыніца пра знешне- і ўнутрыпаліт. становішча ВКЛ у 17 ст., апублікаваны У.Серадзінскім у



1875 пад назвай «Памятная кніга падзей, што адбыліся на Літве ў 1654—1668 г.» («Księga pamiętnicza wydarzeń zaszłych na Litwie 1654—1668» у серыі «Scriptores Rerum Polonicarum» (т. 3).

*Валерый Пазднякоў.*

**Мядэкша** Юзаф (каля 1744—пасля 1791), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Д.*Мядэкшы.* З маладосці служыў у войску. У 1764 удзельнічаў у выбарах караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1768 дапамагаў бацьку ў арганізацыі канфедэрацыі ў Ковенскім пав. ў падтрымку *Барскай канфедэрацыі*. Удзельнічаў у баях пад Вількамірам, Рэміголай, Новым Местам, Высокай Рудой, разам з інш. канфедэратамі адступіў на тэр. Прусіі. У 1771 удзельнічаў у выправе на тэр. ВКЛ. У Аліце быў абвешчаны канфедэрацкім маршалкам Старадубскага пав. Пад камандаваннем Ш.Касакоўскага ў жн.—кастр. 1771 прайшоў з канфедэрацкім атрадам па Беларусі, які скончыўся пераходам Сажа і рас. граніцы на Смаленшчыне. Пасля вяртання на тэр. Літвы рушыў з Касакоўскім у польскія землі. З 1772 знаходзіўся ў г. Цешын у Сілезіі, дзе ў Генеральнасці Барскай канфедэрацыі прадстаўляў Смаленшчыну. Пасля жыў на Памор'і. У 1778 пасол на сойм ад Ковенскага пав., выбраны чл. Камісіі па рэвізіі Вайсковага дэпартамента. З 1791 ковенскі харужы. Далейшы лёс невядомы.

*Валерый Пазднякоў.*

**Мяжэрыцкі Троіцкі манастыр.** Знаходзіцца ў г. Мяжэрыцы на Валыні, заснаваны князямі Астрожскімі. Складаецца з царквы Св. Тройцы, жылых карпусоў, абарончых сцен з вежамі. Прымыкае да ўсх. вала гар. умацавання. Храм пабудаваны ў 15 ст. ў цэнтры манастырскага комплексу на месцы драўлянай царквы 14 ст. Цяпер гэта 4-слуповы 5-купальны 3-апсідны храм. Адгалінаванні прасторавага крыжа перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Першапачаткова ім на фасадах адпавядалі закамары. Асн. аб'ём накрыты 4-схільным дахам. Парапеты, размешчаныя паміж бакавымі барабанамі, маюць ключападобныя байніцы ў цэнтр. частцы (узведзены ў 1609—10 з мэтай прыстасаваць храм да абароны). Спачатку кожная апсіда мела ўласны дах. У 2-й пал. 19 ст. храм аб'ядналі агульным 2-схільным непрапарцыянальна груваcткім дахам. Сцены храма ўмацаваны шматпрыступкавымі контрфорсамі. У прасценках паміж імі зроблены вокны спічастай формы з белакаменнымі пераплётамі. У 1610 Я.Астрожскі перадаў манастыр францысканцам. У 1609—12 пабудаваны 2-павярховыя жылыя карпусы, якія прымыкаюць да храма з паўн. і паўд. бакоў у адну лінію з гал. фасадам. Карпусы кляштара фланкіраваны 3-яруснымі цыліндрычнай формы вежамі з байніцамі. Бібліятэка і трапезная на 1-м паверсе перакрыты зорчатымі скляпеннямі. У 1606—09 трапецападобны ў плане двор манастыра быў абнесены сценамі з 4 вуглавымі вежамі 6-граннай формы. 5-я надбрамная вежа ў 18 ст. перароблена пад званіцу. Сцены і вежы манастыра былі апяразаны на 8-метровай вышыні фрызам, упрыгожаным арнаментам (пляцёнка, выкананая ў тэхніцы сграфіта). Аналагічным арнаментам былі аздоблены пастаменты светлавых барабанаў. У архітэктуры манастыра прасочваюцца традыцыі візантыйска-рус., гатычнага і рэнесансавага дойлідства.

*Літ.*: Molendziński K. Klasztor pofranciszkański w Międzyrzeczu Ostrogskim na Wołyniu // Rocznik Wołyński. Równe, 1935. T. 4; Годованюк Е.М. Два храма XV в. на Волыни // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Мязецкае княства**, феадальная дзяржава ва Усх. Еўропе, адно з *Вярхоўскіх княстваў*. Было створана пасля скасавання самастойнасці Тарускага княства (1393), частка князёў якога не пажадала служыць Маскве і ад'ехала да вял. князя літоўскага Вітаўта. Ён даў ім у вотчыну значную частку зямель са складу скасаванага ім Карачаўскага княства, а таксама Казельскага і Бялёўскага княстваў. Цэнтрам новага тэрытарыяльнага ўтварэння каля 1406—08 стаў г. Мязецк (Мязочаск, Мяшчоўск), ад якога князі-ўладальнікі атрымалі прозвішча *Мязецкія*. Вял. князі літоўскія Жыгімонт і Казімір пацвердзілі сваімі граматамі Мязецкім валоданне шэрагам валасцей. Спіс уладанняў, якія належалі гэтым князям, паступова павялічваўся. Існуючы фармальна, М.к. не мела самастойнасці, яго князі не заключалі дагавор з правіцелямі ВКЛ і валодалі пэўнымі тэрыторыямі на правах надання («даніна», «выслуга»). Тэрыторыя княства не была кампактнай з акрэсленымі межамі і займала прастору на ПдУ ад свайго цэнтра. На працягу 15 ст. род Мязецкіх моцна разросся, са складу М.к. вылучыліся ўдзелы (Баратынскі, Гаўдырэўскі), г. Мязецк быў падзелены на т.зв. дольніцы. У канцы 15 ст. пачаўся ціск на Мязецкіх з маскоўскага боку. У 1487 людзі князёў Адоеўскіх і Перамышльскага, якія служылі Івану III, прыходзілі ваяваць пад горад Мязецк. Разлічваючы на пэўную выгаду, у жн.—кастр. 1492 на бок Масквы перайшоў князь Міхаіл Раманавіч Мязецкі. Горад Мязецк разам з Сярпейскам захапіў кн. Сямён Фёдаравіч Варатынскі, які ў той час таксама вырашыў перайсці на маскоўскі бок. Аднак значнае войска ВКЛ на чале са смаленскім намеснікам Юрыем Глебавічам, кн. Сямёнам Іванавічам Мажайскім і інш. адваявалі абодва гарады. У адказ зімой 1493 пад Мязецк прыйшло аб'яднанае маскоўска-разанскае войска, падтрыманае сіламі вярхоўскіх князёў. Горад здаўся без бою. Аднак паводле дагавора аб «вечным міры» 1494 М.к. засталося ў сумесным уладанні паміж князямі — прыхільнікамі літ. і маскоўскага бакоў. З пачаткам *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* апошнія Мязецкія перайшлі на маскоўскую службу, а сам г. Мязецк у 1504 паводле завяшчання Івана III быў далучаны да ўладанняў яго 3-га сына Дзмітрыя. Мязецкія князі атрымалі кампенсацыю ў інш. раёнах Маскоўскай дзяржавы.

*Літ.*: Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вторая половина XV в. 2 изд. М., 2001.

*Віктар Цемушаў.*

**Мязецкія**, княжацкі род у ВКЛ і Расіі. Паходзілі ад чарнігаўскіх князёў, уладальнікаў Тарускага княства. У канцы 14—пач. 15 ст. некаторыя тарускія князі не пажадалі застацца на маскоўскай службе, ад'ехалі да вял. князя літоўскага Вітаўта і атрымалі ад яго значныя ўладанні з цэнтрам у г. Мязецк (адсюль прозвішча М.), якія ўтварылі *Мя-*

*зецкае княства*. Першымі мязецкімі князямі былі Андрэй Усеваладавіч Шуціха і яго брат Дзмітрый Усеваладавіч (згадваюцца ў 1422—24), сыны тарускага кн. Усевалада Юр'евіча Арэхвы. Абодва князі знаходзіліся на службе ў Вітаўта і падпарадкоўваліся адоеўскаму кн. Юрыю Раманавічу. Дзмітрый памёр без нашчадкаў, а яго ўладанні (частка Мязецка, Колкавічы) былі перададзены пляменнікам. Спадкаемцамі кн. Андрэя былі яго сыны Фёдар, Раман і Іван, якім вял. князь літоўскі Казімір Ягайлавіч у 1440-я г. пацвердзіў права на ўладанне Мязецкам з валасцямі. На працягу 15 ст. род М. моцна разросся, паміж яго прадстаўнікамі пачаліся спрэчкі, якія выкарысталі ў сваіх інтарэсах улады суседняга Вял. княства Маскоўскага. У барацьбе за першынство ў сваіх уладаннях М. падзяліліся на прыхільнікаў Вільні або Масквы. Паліт. абставіны ў рэшце рэшт вымушалі ўсіх М. або перайсці на маскоўскую службу, або трапіць у няволю. Першым на маскоўскую службу ў жн.—кастр. 1492 перайшоў кн. Міхаіл Раманавіч. Ён захапіў няволяй разам з сабой 2 сваякоў (брата Сямёна і стрыечнага брата Пятра Фёдаравіча) і ў выніку атрымаў у вотчыну значную частку мязецкіх уладанняў. Аднак пазней яго маёнткі былі абменены на с. Алексін у Старадубскім пав. Міхаіл Раманавіч загінуў разам з сынам Андрэем у 1552 пад Казанню. Вывезены ў Маскву мязецкі кн. Сямён Раманавіч пагадзіўся служыць Івану III. Ён выконваў розныя даручэнні маскоўскага вял. князя, ваяваў у 1501 воласці ВКЛ, выпраўляўся на р. Угра ў 1512 і 1513 для прыкрыцця асн. маскоўскіх сіл у час ваен. дзеянняў супраць Смаленска. У 1494 на баку Масквы апынуліся мязецкія князі Васіль і Фёдар Іванавічы Гаўдырэўскія. Засталіся служыць вял. князю літоўскаму Аляксандру Казіміравічу мязецкія князі Фёдар Сухі і Васіль Кукубяка Фёдаравічы. Пазней да іх далучыўся выпушчаны з палону кн. Пётр Фёдаравіч. Гэтыя князі да 1500 заставаліся вернымі вял. князю літоўскаму, а пасля таксама перайшлі на маскоўскі бок. На маскоўскай службе М. не дасягнулі значных поспехаў. Яны лічыліся дваровымі дзецьмі баярскімі па Мажайску, выконвалі абавязкі ваявод, намеснікаў, стольнікаў і інш. У сярэдзіне 17 ст. род згубіўся. Ад М. вядуць паходжанне князі *Баратынскія* і Гаўдырэўскія.

*Літ.*: Долгоруков П.В. Родословная Российская книга. Т. 4. СПб., 1854; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993.

***Віктар Цемушаў.***

**Мялешка** Васіль Іванавіч (15.3.1921, г. Томск, Расія—5.9.2004), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1972), праф. (1990). З сям'і бел. сялян в. Мільканавічы Слонімскага пав., якія ў 1-ю сусветную вайну былі эвакуіраваны ў Сібір і вясной 1921 вярнуліся на радзіму. Скончыў БДУ (1952). Удзельнік Вял. Айч. вайны. У 1940—41 і 1946—56 працаваў настаўнікам і дырэктарам школ. У 1956—91 у Ін-це гісторыі АН БССР (у 1980—91 заг. аддзела гісторыі Беларусі эпохі феадалізму), у 1987 старшыня камісіі АН па гісторыі сельскай гаспадаркі і сялянства Беларусі. Даследаваў сац.-эканам. праблемы феад. горада, агр. адносін і класавай барацьбы ў Беларусі 16—18 ст., вайны 1654—67 з Расіяй. Адзін з аўтараў калектыўных прац: «Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі» (1968), «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Полацк: Гіст. нарыс» (2-е выд., 1987), «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. 1, 1994) і інш. Чл. Міжнароднага таварыства па вывучэнні 18 ст., Савета па гісторыі дэмаграфіі і гіст. геаграфіі Рас. АН.

*Тв.*: Слоним: Ист. очерк. Мн., 1962; Handel i stosunki handlowe Białorusi Wschodniej z miastami nadbałtyckimi w końcu XVII i w XVIII w. // Zapiski historyczne. Toruń, 1968. T. 33; К вопросу о состоянии экономики Белоруссии и Литвы в конце XVIII в. // Сов. славяноведение. 1969. № 2; Formy i struktura feudalnej własności ziеńskiej we Wschodniej Białorusi w durgiej połowie XVII i w XVIII w. // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Warszawa; Poznań, 1972. T. 33; Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Источники по социально-экономическому положению крестьян Белоруссии во второй половине XVI—XVIII вв. // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1979. T. 12; Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982; Могилев в XVI— середине XVII в. Мн., 1988; Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988 (з П.А.Лойкам); І ўзняўся люд просты... Мн., 1992 (з ім жа); Грамадзянская вайна на Беларусі (1655—1658 гг.) // Profesor Henryk łowmiański: Życie i dzieło. Poznań, 1995.

*Літ.*: Кушнер В., Лойка П., Голубеў В. Стваральнік беларускай школы гісторыі феадалізму // Бел. гіст. часопіс. 2001. № 3.

***Павел Лойка.***

**Мялешка** Іван Ілья (каля 1552—13.5.1622), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, публіцыст. Сын слонімскага маршалка Івана Данілавіча. Падкаморы мазырскі і падстараста слонімскі з 1591, маршалак слонімскі з 1602, кашталян мсціслаўскі ў 1605—10, берасцейскі ў 1610—15 і смаленскі з 1615. На сойме 1598 прызначаны ў склад камісіі па размежаванні Мазырскага пав. з Кіеўскім ваяв. (яго паўнамоцтвы прадоўжаны на соймах 1609 і 1611). Пасол на сойм 1605. У 1613 уваходзіў у склад сенатарскай рады пры Жыгімонце III Вазе. На Слонімшчыне валодаў Дзевяткавічамі, Бусяжам, у 1606, 1609 і 1621 набыў ад Эстэр, удавы Іцхака Міхелевіча, І.Солтана і Л.Сапегі часткі маёнтка Жыровічы, трымаў Здзітаўскую дзяржаву. Фундаваў у 1613 уніяцкі Жыровіцкі Успенскі манастыр, ігуменам якога стаў Іасафат Кунцэвіч; у 1613 і 1618 перадаў манастыру і сваю частку Жыровіч. Аўтар скіраванага супраць замежнага (гал.ч. польскага) уплыву ў ВКЛ сатырычнага твора «*Прамова Мялешкі*».

**Мянжынскі** Валерый Станіслававіч (н. 29.12.1954, г. Віцебск), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1988). Скончыў БДУ (1981). З 1976 выкладаў у тэхнічным вучылішчы. З 1981 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі (з 2000 старшы навук. супрацоўнік), адначасова з 2001 выкладае ў БДУ. Даследуе знешнюю і ўнутраную гісторыю Метрыкі ВКЛ, гісторыю землеўладання і шляхецкага саслоўя ВКЛ. Выдаў кнігі «Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552). Кніга запісаў 28» (Мінск, 2000, з удзелам У.М.Свяжынскага), «Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 43 (1523—1560 гг.). Кніга запісаў 43» (Мінск, 2003) «Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 46 (1562—1565). Кніга запісаў 46» (Мінск, 2006).

*Тв.*: Метрыка Вялікага княства Літоўскага як крыніца па гісторыі землеўладання Беларусі: (Першая палавіна XVI ст.) // Весці



АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 2; Структура феодального землевладения в Великом княжестве Литовском: (По материалам Переписи войска 1528 г.) // История СССР. 1987. № 3; Книга записей Метрики Великого княжества Литовского № 17 как источник по социально-экономической истории Белоруссии и Литвы // Книга в Белоруссии. Мн., 1988; Копийная книга записей Метрики Великого княжества Литовского № 25 и история белорусского землевладения первой половины XVI в. // Исследования по истории Литовской Метрики. М., 1989. Вып. 2; Документальный состав книг записей Литовской Метрики за 1522—1552 гг. // Литовская Метрика: Исслед. 1988 г. Вильнюс, 1992; Першыя пісьмовыя ўзгадкі пра вёску Варанцэвічы // Древнему Друцку 1000 лет. Витебск, 2001; Да гісторыі ўкраінскіх замкаў 40-х гг. XVI ст. // Дніпропетровський історико-археографічний збірник. Дніпропетровськ, 2001. Вип. 2; Шляхта і яе зямельныя ўладанні ў Ашмянскім (Ошменским) павеце ў першай палове XVI ст.: (паводле Кнігаў № 12—31 Метрыкі ВКЛ) // METRICIANA: Даслед. і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2001. Т. 1 (з А.Дзярновічам); Шляхта, іншыя землеўласнікі і землеўладальнікі ды іхныя зямельныя ўладанні ў Берасцейскім, Камянецкім і Кобрынскім паветах у другой палове XV—першай палове XVI ст.: (паводле Кнігаў № 12—33 Метрыкі ВКЛ) // Там жа. 2004. Т. 3 (з А.Дзярновічам)

**Мяніцкі** Вінцэнт (1850, фальварак Селігоры Лепельскага пав. Віцебскай губ.—1916), гісторык, археограф. Бацька Р.*Мяніцкага*. Атрымаў гімназічную адукацыю. Паходзіў з заможнага старадаўняга шляхецкага роду герба «Праўдзіц». У маёнтку Селігоры (належаў роду з сярэдзіны 16 ст.) была сабрана вял. б-ка і калекцыя старадрукаў, рукапісаў, грамат, карт, гравюр. Напісаў некалькі археаграфічных прац, супрацоўнічаў з час. «Kwartalnik historyczny» («Гістарычны штоквартальнік»), «Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne» («Нумізматычна-археалагічныя паведамленні») і інш. Збіраў і захоўваў рукапісныя творы бел. л-ры 19 ст. У яго б-цы быў экземпляр драматычнай паэмы Гераніма Марцінкевіча «Адвячорак: аказія ў карчме пад Фальковічамі», тэксты многіх бел. вершаў. Менавіта ў М. ў Селігорах пачаў запісваць з 1889 творы ў сваю славутую рукапісную «Беларускую хрэстаматыю» Б.І.Эпімах-Шыпіла. Большая частка каштоўнай селігорскай б-кі М., сляды якой безвынікова шукала ў 1920-я г. Лепельскае краязнаўчае таварыства, апынулася пазней у Вільні і загінула пры пажары ў 2-ю сусветную вайну. Дапамагаў матэрыяламі пры стварэнні «Геаграфічнага слоўніка Каралеўства польскага і іншых славянскіх краін».

*Тв.*: Krótka wiadomość o najdawniejszej rewizji województwa Polockiego. Kraków, 1894.

*Літ.*: Włodarski A. Rodowód domu Mienickich herbu Lew z muru. Warszawa, 1928; Багдановіч І.Э. Жывы струменьчык адраджэння // Літаратура і мастацтва. 1999. 15 студз.

***Ірына Багдановіч.***

**Мяніцкі** Рычард Вікенцьевіч (28.7.1886, фальварак Селігоры Лепельскага пав. Віцебскай губ.—29.1.1956), гісторык-архівіст, крыніцазнавец. Праф. Віленскага ун-та (1938). Сын В.*Мяніцкага*. Вучыўся ў Пецярбургскім ун-це (1904—06). Скончыў Аляксееўскае ваеннае вучылішча. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Жыў у Кракаве, Віцебску, Варшаве, з 1918 у Вільні, з 1921 супрацоўнік Дзярж. архіва ў Вільні, з 1939 яго дырэктар. Пасля 2-й сусветнай вайны — у Гданьску і Торуні. Займаўся гісторыяй архіва- і крыніцазнаўства. Упершыню ўвёў курс архівазнаўства ў Віленскім ун-це (1923) і распрацаваў курс лекцый па архівістыцы для ВНУ. Сабраў матэрыялы па гісторыі Полаччыны. Аўтар прац «Віленская археаграфічная камісія (1864—1915)» (1925), «Дыярыуш вайсковай Варшаўскай рады з 1710 г.» (1928), «Архіў даўніх актаў у Віцебску, 1852—1903» (1939). Выдаў кнігу гіст. крыніц «Кніга баторынская» (1939). Даследаваў хелмскія інвентары 14—18 ст. (1955—56).

*Тв.*: Archiwum akt dawnych w Wilnie... Warszawa, 1923.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

***Генадзь Каханоўскі.***

**Мяркіне** (Merkinė), горад у Літоўскай Рэспубліцы, гл. *Мерач*.

**мястэчка** (ад агульнаслав. «места» горад), у ВКЛ у 15—18 ст. драбнейшы населены пункт гарадскога тыпу, малы горад, эканамічны ўплыў якога абмяжоўваўся невялікімі сельскагаспадарчымі раёнамі — дробнымі вотчынамі, валасцямі, старраствамі, якія не мелі, як правіла, іншых гар. пасяленняў і адм. цэнтрам якіх ён звычайна з'яўляўся. М. ўзніклі ў 15 ст. з распаўсюджаннем таварна-грашовых адносін для стварэння шчыльнай сеткі таргоў і максімальнага ўцягвання ў рыначны абарот сельскага насельніцтва. Яны размяшчаліся побач з замкамі, неўмацаванымі дварамі, ужо існуючымі гарадамі (але не бліжэй чым за 3 мілі ад іх), на «сырым корані» (на новым месцы), на важнейшых камунікацыйных шляхах, каля асяродкаў рэлігійнага культу, на перакрыжаваннях дарог, па берагах рэк, азёр, водападзелах і г.д., што ўплывала на іх планіроўку. Найбольш простыя М. складаліся з 1 вуліцы, частка якой часам адводзілася пад рынак, альбо толькі з рынку, 4- ці 3-вугольнага. У буйнейшых М. існавала рыначна-вулічная структура, прычым некаторыя вуліцы непасрэдна не былі звязаны з рынкам. М. маглі мець пасады, прадмесці ці падзяляцца на Старое і Новае Места. Забудова мела рэгулярны, пляцавы характар. Для большасці М. была характэрна адсутнасць гар. умацаванняў. Насельніцтва М. папаўнялася за кошт жыхароў вёсак, ператвораных у М., уцекачоў і перасяленцаў з інш. маёнткаў і гарадоў, іншаземцаў. Да 1588 на заснаванне новага прыватнага М. патрабаваўся дазвол вял. князя. Статут ВКЛ 1588 зняў усе абмежаванні на закладанне феадаламі новых М., але фарміраванне іх сеткі да гэтага часу было ўжо ў асноўным завершана. Найб. канцэнтрацыя М. назіралася ў бас. Нёмана і яго прытокаў, меншая — у Падзвінні і Пабужжы. У прынцыпе М. былі першапачатковай стадыяй росту гарадоў, аднак большасць з іх засталіся дробнымі пасяленнямі. Іх узбуйненню перашкаджала канкурэнцыя з боку гарадоў і інш. М., а таксама запатрабаванасць функцыі па абслугоўванні лакальных рынкаў.

Сталых крытэрыяў вылучэння М. з агульнай масы гар. пасяленняў у ВКЛ не існавала. У 16 ст. пад М. найчасцей разумелі гарады без *магдэбургскага права*. Ухвала Варшаўскага сойма аб генеральным падымным падатку 1775 сцвярджала, што «пад мястэчкамі трэба разумець такія, якія адным землеробствам жывуць і меней як 300 дымоў налічваюць». Падобны крытэрый лёг у аснову вызначэння М. большасцю бел. даследчыкаў. Аднак у рэальным жыцці колькасць жыхароў у М. залежала ад

перыяду і рэгіёна, а пра іх аграрны характар можна гаварыць толькі як пра агульную тэндэнцыю ў параўнанні з гарадамі. Да канца 16 ст. асновай дзейнасці жыхароў М. з'яўляліся акрамя сельскай гаспадаркі абслугоўванне гандлю і камунікацыйных шляхоў, феад. двароў, трыманне корчмаў, рамесніцкая праца на заказ. У далейшым роля рамяства і сувязь яго з рынкам рэзка вырасла. Пры М. існавалі прадпрыемствы прамысловага характару (млыны, фолюшы, тартакі, вапнавыя печы, рудні, гуты, крупадзёркі, цагельні, бровары, суднабудаўнічыя верфі). У 18 ст. ў некаторых М. былі закладзены мануфактуры. Большасць насельніцтва М. складалі мяшчане, аднак пражывалі тут і феадалы, агароднікі, кунічнікі і інш. У буйнейшых М. існавалі феад. *юрыдыкі*. З 15 ст. значная колькасць М. набыла магдэбургскае права. Некаторыя М. (Заслаўе, Лоск, Любча і інш.) былі значнымі цэнтрамі культ. жыцця. У іх жылі і дзейнічалі вядомыя дзеячы культуры і мецэнаты, працавалі друкарні і г.д.

*Літ.*: Alexandrowicz S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. Białystok, 1961. T. 1; Яго ж. Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza w Poznaniu. Historia. Poznań, 1964. Nr 6; Яго ж. Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku // Rocznik dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1966. T. 27; Яго ж. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T.7; Копыскі З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Грыцкевіч А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исследование истории городов). Мн., 1975; Бохан Ю.М. Аб месцы мястэчка ў структуры гарадскіх пасяленняў XV—XVIII стст.: (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1993. Ч. 1; Яго ж. Роля земляробства і рамяства ў занятках жыхароў мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XVI—XVIII стст. // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: (новыя канцэпцыі і падыходы). Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Мн., 1993. Ч. 1; Бохан Ю.М., Шаблюк В.У. Агульная характарыстыка мястэчак. Тыпы планіроўкі // Археалогія Беларусі. Мн., 2001. Т. 4.

***Юрась Бохан.***

**Мяхоўскі** Мацей, гл. *Мацей з Мехава.*

**Мяцельскі** Андрэй Анатолевіч (н. 16.9.1960, г. Котбус, Германія), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1992). Скончыў Гродзенскі ун-т (1984). З 1990 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік. Даследуе ўсх. Беларусь феад. перыяду, займаецца пытаннямі гіст. геаграфіі. Праводзіў археал. раскопкі Крычава, Мсціслава і інш. гарадоў. Даследуе Нясвіжскі замак.

*Тв.*: Хоцімск: да пытання аб часе ўзнікнення // Весці НАН Беларусі. Сер. гум. навук. 1999. № 4; Старадаўні Крычаў: Гістарычна-археалагічны нарыс горада ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 2003; Фарміраванне і тэрытарыяльнае развіццё Мсціслаўскага княства сярэдзіны XII—пачатку XVI стст. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2001. № 3; Мястэчкі Крычаўскага староства // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Аб лакалізацыі Нясвіжа XI—пачатку XVI стагоддзя // Бел. гіст. часопіс. 2006. № 1.

**мячэць** (ад араб. масджыд — месца, дзе адбіваюцца зямныя паклоны), культавы будынак у ісламе, месца агульнай малітвы. Узніклі ў 7 ст. Да канца 8 ст. сфарміравалася характэрнае аблічча М.: гал. сцяна (кібла) павернута ў бок Меккі, знутры ў ёй ніша накшталт алтара — міграб (міхраб), да якой у час малітвы павернуты твары вернікаў. Побач з міграбам — кафедра з 3—9 прыступак для мулы — мінбар (татар. мумібір). Падлога засцілаецца коўдрамі і дыванамі. Для старых і хворых уздоўж сцен ставяць лавы. На сценах могуць развешвацца выявы славутых М., цытаты з Карана — мугіры (але ніякіх скульптур і малюнкаў людзей і жывёл). У час малітвы ў М. дапускаюцца толькі мужчыны, але ззаду за гал. залай можа быць асобнае памяшканне для жанчын з акном з тонкай фіранкай (напр., у бел. татараў) або ізаляваныя галерэі. М. часта ўпрыгожваецца купалам; вежа — мінарэт знаходзіцца на тым жа будынку (характэрна для ўсіх татараў) або стаіць асобна (звычайна ў Турцыі, Сярэдняй Азіі і інш.). З мінарэта памочнік мулы муэдзін (у бел. татараў мязім) голасам склікаў вернікаў на малітву. У буйных населеных пунктах існуюць вял. М. — джаміі (пятнічныя, або саборныя), якія з'яўляюцца цэнтрамі прыходаў — джаміятаў, і дробныя квартальныя і сельскія М. Акрамя набажэнстваў у М. праводзяцца сходы і інш. грамадскія мерапрыемствы мусульманскіх абшчын. У ВКЛ М. з'явіліся разам з пасяленнем тут татараў-мусульман у 14 ст. Пасля перыяду верацярпімасці ў ВКЛ у 17 ст. мела месца забарона з боку каталіцкай царквы будаваць і рамантаваць М. Першыя М. на Беларусі былі драўляныя аднязрубныя пад 4-схільным дахам, са слупавым ганкам ці галерэяй, без мінарэтаў. Паступова ўзнік мінарэт у выглядзе стромкай вежы (Лоўчыцы Навагародскага пав., 1688). У 18—19 ст. ўзнік адметны тып М., па архітэктуры блізкі да касцёла (Крушыняны Гарадзенскага пав., 18 ст.). Унікальным помнікам архітэктуры, які ўвасобіў рысы М. класічнага Усходу, стала М. з в. Даўбучкі каля Смаргоні (18 ст.). На Беларусі М. існавалі таксама ў Менску, Міры (да 1795), Мядзеле, Навагародку (1796), Некрашунцах (Воранаўскі р-н, 18 ст.) і інш. Захавалася М. з в. Даўбучкі (перавезена ў Бел. дзярж. музей народнай архітэктуры і побыту). Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 64, 119.

*Літ.*: Лакотка А.І. Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994.

***Аляксандр Лакотка.***





**Набароўскі** Даніла (1573, Кракаў ?— 1640), паэт, перакладчык, урач. З шляхецкай сям'і. У 1590—93 слухач Вітэнбергскага ун-та, дзе вывучаў лацінскую, грэчаскую, нямецкую, французскую, італьянскую мовы, у Базелі — медыцыну, у Арлеане і Страсбургу (1595—96) — антычную л-ру. Слухаў лекцыі Галілея ў Падуі (1602) і стаў прыхільнікам яго вучэння. На аснове вучэння Галена напісаў 2 мед. трактаты. Жыў у Нясвіжы. Удзельнічаў у барацьбе з эпідэміямі ў Беларусі. У вершах і вершаваных пісьмах (на лацінскай і польскай мовах) са Слуцка, Смалявіч, Дзяляціч — замалёўкі сац. супярэчнасцей 16—17 ст. Высмейваў рэакцыйную шляхту, езуітаў, духавенства. Для многіх яго вершаваных твораў характэрны алегарызм, рытарычная вобразнасць, гульня слоў і інш. стылявыя асаблівасці, уласцівыя маньерызму. Перакладаў на польскую мову з лацінскай (М.Сарбеўскага), італьянскай (Петрарку), французскай і нямецкай моў.

*Тв.*: Poezje. Warszawa, 1961.

*Літ.*: Грыцкевіч В. Чатыры факелы ў цемры // Маладосць. 1972. № 10; Dürr-Durski J. Daniel Naborowski. Łódź, 1966.

***Якаў Парэцкі.***

**набілітацыя** (ад лац. nobilitas знаць), наданне шляхецтва асобе простага стану. У Зах. Еўропе вядома з 13 ст., у ВКЛ — з часоў вял. кн. Вітаўта [1392—1430]. Вядомы акт Н. ў 1436 польскім каралём Уладзіславам III літвіна Івана Слушкі з наданнем яму герба «Волга» (у далейшым род Слушкаў карыстаўся гербам «Астоя»). З пач. 16 ст. Н. ў ВКЛ сталі звычайнай з'явай. У Статут ВКЛ 1566 быў унесены спец. артыкул «О простых людех, кгдыж повышеня чести и станов за годностями заслугами могут меть». Пасля Люблінскай уніі 1569 на сойме 1578 прынята канстытуцыя, каб кароль «плебеяў» не ўзводзіў у шляхецтва, адно толькі на сойме па прадстаўленні Рады ВКЛ ці ў войску за мужнасць. Гэта паўплывала на фармулёўку артыкула ў Статуце ВКЛ 1588 «О непривлащенье вольностей шляхетских людем простого стану». Паводле яго Н. праводзілася толькі «за явными значными и рицерскими послугами, мужством, оказаным против неприятелем нашим». На сойме 1601 зацверджана палажэнне, паводле якога Н. праводзілася каралём толькі па прадстаўленні Сената і Пасольскай Ізбы, а ў войску — гетманам. Каб не было таемных Н., сапраўднымі лічыліся толькі тыя, што адзначаны ў спец. соймавых канстытуцыях. На каранацыйным сойме 1633 забаронены прыватныя адопцыі (прыём у геральдычны род прадстаўнікоў інш. саслоўяў). Паводле канстытуцыі 1643 набілітаваныя сем'і на працягу 3 пакаленняў не мелі права займаць пасад і спраўляць пасольствы. Значнае пашырэнне атрымала практыка Н. ў час панавання караля Станіслава Аўгуста [1764—95], калі было набілітавана ў 2 разы больш асоб, чым яго папярэднікамі з 1601. Іл. гл. ў т. 1, с. 162.

*Літ.*: Laberschek J. Najstarsze nobilitacje w Polsce na przykładzi Mikołaja wójta lelowskiego i Jana Służki z Mirowa // Homines et Societas. Poznań, 1997; Album armorum nobilium Regni Poloniae XV—XVIII saec.: Herby nobilitacji i indygenatów, XV—XVIII w. / Wstęp, opracowanie i edycja B.Trelińska. Lublin, 2001; Materiały genealogiczne, nobilitacje, indygenaty w zbiorach Archiwum Głównego Akt Dawnych w Warszawie / Opracowanie katalogu A.Wajs. Warszawa, 2001.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Навагрудак**, горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр Навагрудскага р-на, гл. *Навагародак*.

**Навадворскі** Вітальд Уладзіслававіч [2(14).6.1861, маёнтак Лемна Ігуменскага пав.—25.11.1923], гісторык. Скончыў ваенную гімназію ў Полацку (1878), Пецярбургскі ун-т (1885). Выкладаў гісторыю ў сярэдніх навучальных установах, з 1900 прыват-дацэнт Пецярбургскага ун-та. З 1906 экстраардынарны праф. усеагульнай гісторыі гіст.-філалагічнага ін-та ў Нежыне, з 1908 дацэнт Кіеўскага ун-та, з 1921 праф. усеагульнай гісторыі Віленскага ун-та. Даследаваў гісторыю міжнародных адносін, асабліва ў Балтыйскім рэгіёне ў 16 ст., праблемы метадалогіі гісторыі. У магістэрскай дысертацыі «Барацьба за Лівонію паміж Масквой і Рэччу Паспалітай (1570—1582)» (1904) прасачыў ход ваенных падзей на заключным этапе Інфлянцкай вайны 1558—82, заняцце Полацка войскамі Стафана Баторыя, аблогу Вял. Лук і Пскова.



*Тв.*: Борьба за Ливонию между Москвою и Речью Посполитою (1570—1582): Ист.-критическое исслед. СПб., 1904; Из биографии Канцлера Яна Замойского: (страничка из жизни польского гуманизма) // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1909. № 4; Польша, Швеция и Дания в царствование польского короля Стефана Батория // Там жа. 1910. № 11; Исторический материализм: Доктрина Маркса и Энгельса: Опыт ист. исслед. // Известия Ист.-филологического ин-та кн. Безбородко в Нежине. Нежин, 1914—15. Т. 29—32; История Западной Европы в начале нового времени. Киев, 1914; Wilno na tle dziejów Litwy: (Rys historyczny) // Ziemia. 1922. № 5; Istota i zadanie dziejów powszechnych. Wilno, 1924 (змешчана бібліяграфія прац Н.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Навасвержанская Успенская царква.** Заснавана ў мяст. Новы Свержань Навагародскага ваяв. ў 1590 М.К.*Радзівілам* Сіроткай. У пач. 17 ст. перайшла да уніятаў. Арыентавана алтаром на Пд і павернута да гал. плошчы мястэчка бакавым зах. фасадам. Уяўляе сабой мураваны 1-нефавы 1-вежавы храм з прамавугольнай алтарнай апсідай (першапачатковая не захавалася) і 2 рызніцамі, прыбудаванымі ў 2-й пал. 18—пач. 19 ст. Інтэр'ер перакрыты драўлянай столлю на бэльках. У кампазіцыі дамінуе высокая чацверыковая вежа, узведзеная над вузкім прамавугольным нартэксам, які мае 2 бакавыя ўваходы ў храм. Гал. ўваход зроблены з боку плошчы, акцэнтаваны рэнесансавым парталам з ордэрнымі элементамі. Вежа аздоблена вертыкальна выцягнутымі плоскімі паўцыркульнымі нішамі. Яе вянчае фігурны барочны купалок.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 111—112; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001. С. 72—73.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Навасвержанскі Петрапаўлаўскі касцёл.** Заснаваны ў мяст. Новы Свержань Навагародскага ваяв. ў 1588 М.К.*Радзівілам* Сіроткай. Доўгі час памылкова лічылася, што ён пабудаваны як кальвінскі збор. У канцы 16—пач. 17 ст. да гал. фасада прыбудавана ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі шмат'ярусная вежа. На працягу існавання касцёл неаднойчы быў пашкоджаны. У 1818 ураган знёс дах і часткова разбурыў верх вежы. У час рамонту паменшаны яе памеры ў вышыню. Першапачаткова храм быў накрыты пляскатай дахоўкай. У апошняй чвэрці 18 ст. гонт замянілі на хвалістую дахоўку. У пач. 20 ст. было ўжыта металічнае крыццё даху, вакол касцёла зроблена мураваная агароджа. У Вял. Айч. вайну былі часткова пашкоджаны вежа і алтарная частка касцёла. Пасля вайны заставаўся зачынены і не рамантаваўся. У 1950 яго прыстасавалі пад зернясховішча. Цяпер дзейнічае.

Касцёл узведзены на перакрыжаванні асн. вуліц і павернуты гал. фасадам да гандлёвай плошчы. Храм мае характэрную для касцёлаў готыка-рэнесансавую кампазіцыю і складаецца з прамавугольнага асн. аб'ёму са слаба акрэсленым трансептам, паўкруглай апсіды і магутнай шмат'яруснай чацверыковай вежы-званіцы на гал. фасадзе. Прэсбітэрый не мае вімы і зроблены больш нізкім за малітоўную залу. Інтэр'ер перакрываюць цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. Вокны завяршаюцца перамычкай паўцыркульнай формы. Да 1818 фасады не былі атынкаваны. Да гал. фасада прымыкае 3-ярусная квадратная ў плане вежа, накрытая 4-гранным шатром з кароткім шпілем. Яе ніжняя частка ўмацавана контрфорсамі, верхнія ярусы аздоблены плоскімі арачнымі нішамі. Сярэдні ярус вылучаецца рэнесансавым дэкорам у выглядзе трайчастай паўцыркульнай аркады, рытмічна падзеленай пілястрамі на фоне глухіх сцен. У ніжнім ярусе вежы вылучаны бабінец з размешчанымі над ім хорамі, якія адкрыты ўнутр храма невял. арачным праёмам. Гэты ярус перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. У астатніх ярусах ужыта драўлянае перакрыццё на бэльках. Усходы на хоры — у тоўшчы зах. сцяны. Наступныя ярусы злучаны драўлянымі лесвіцамі.

*Літ.*: Кушнярэвіч А., Адамовіч С. Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержні // Мастацтва Беларусі. 1990. № 4; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 106—110; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001. С. 71—72.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Навасільскае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе, адно з *Вярхоўскіх княстваў*. Утварылася ў 1246 пасля смерці родапачынальніка вярхоўскіх князёў Міхаіла Усеваладавіча Чарнігаўскага. Займала тэрыторыю ўздоўж правага боку Верхняй Акі з выхадам на яе левы бок у раёнах гарадоў Бялёў, Варатынск і, магчыма, Калуга. Першапачаткова цэнтрам княства быў г. Глухаў. Пасля поўнага знішчэння яго насельніцтва ад чумы цэнтр уладанняў князёў *Навасільскіх* перамясціўся ў г. Навасіль (цяпер горад у Арлоўскай вобл., Расійская Федэрацыя). Першым князем Навасіля і Глухава быў Сямён Міхайлавіч. Поўнай самастойнасці княства дасягнула ў сярэдзіне 14 ст., калі Арда канчаткова ліквідавала Чарнігава-Бранскае княства. У канцы 1340-х г. Н.к. трапіла ў залежнасць ад маскоўскіх князёў. Відаць, пасля *бітвы каля Сініх Вод 1362* раён Н.к. апынуўся пад уплывам ВКЛ, што замацавана шлюбам кн. Івана Сямёнавіча Навасільскага з дачкой Альгерда. У 1371 Альгерд выказваў канстанцінопальскаму патрыярху Філафею сваю незадаволенасць з-за захопу маскоўскім кн. Дзмітрыем Іванавічам шэрагу гарадоў, у т.л. Навасілі. Пераход Н.к. пад уплыў Масквы адбыўся пасля маскоўскага паходу 1369—70 на Бранск, Мцэнск і Калугу, калі кн. Іван Сямёнавіч быў заменены прыхільнікам Масквы ягоным братам Раманам. Апошні ўдзельнічаў у маскоўскім паходзе на Цвер у 1375. За гэта ў той жа год татары цемніка Мамая (на той час саюзніка Альгерда) зруйнавалі Навасіль, у выніку чаго сталіца княства перанесена ў Адоеў (адсюль пачынаецца гісторыя *Адоеўскага княства*). Некаторы час навасільскія князі працягвалі арыентавацца на Маскву, удзельнічалі на яе баку ў *Кулікоўскай бітве ў 1380* і паходзе на Разанскае княства ў 1385. Горад Навасіль з 1375 не згадваецца ў крыніцах і зноў становіцца вядомым толькі з 1563. Наваколле Навасілі стала маскоўскім у 1503.

*Літ.*: Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995.

***Віктар Цемушаў.***

**Навасільскія**, княжацкі род. Паходзілі ад чарнігаўскай галіны Рурыкавічаў. Родапачынальнік — навасільскі і глухаўскі кн. Сямён, сын загінуўшага ў Ардзе ў 1246 чарнігаўскага кн. Міхаіла Усеваладавіча. Першым добра вядомым навасільскім кн. быў Аляксандр, забіты ў Ардзе ў 1326. У 2-й пал. 14—1-й чвэрці 15 ст. князі Н. прытрымліваліся маскоўскага боку, потым перайшлі на службу ВКЛ. У 1427, 1442, 1448, 1459, 1483 заключалі і пацвярджалі дагаворы аб васальнай залежнасці ад вял. князя літоўскага. Адзіныя сярод вярхоўскіх князёў (гл. арт. *Вярхоўскія княствы*) мелі дагаворы з гаспадарамі ВКЛ і захоўвалі пэўныя княжацкія правы. Пасля смерці ў пач. 15 ст. кн. Рамана Сямёнавіча род Н. распаўся на *Варатынскіх*, Адоеўскіх і Бялёўскіх. Аднак усе прадстаўнікі роду па-ранейшаму захоўвалі адзінае прозвішча Н. Старэйшы ў родзе тытулаваўся князем Навасільскім і Адоеўскім. За гэты тутул і старшынство ў родзе ішла барацьба паміж прадстаўнікамі Варатынскіх і Адоеўскіх князёў. Найб. вядомыя:

Іван Сямёнавіч (?—паміж 1371 і 1372), прапраўнук Сямёна Міхайлавіча. У час маскоўскага паходу зімой 1369—70 на Бранск, Мцэнск і Калугу быў заменены на навасільскім прастоле на прыхільніка Масквы свайго брата Рамана. Каля 1371 ажаніўся з дачкой Альгерда.

Раман Сямёнавіч (?—пасля 1402). У *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72* быў прыхільнікам Масквы. Зімой 1369—70 з дапамогай маскоўскіх войск заняў навасільскі прастол. З гэтага часу быў старэйшым у родзе чарнігаўскіх князёў, і таму, відаць, упамінаўся ў літоўска-маскоўскім *Любуцкім міры 1372* («князь вялікі Раман»). У 1375 удзельнічаў у маскоўскім паходзе на Цвер. У гэтым годзе пакінуў Навасіль і перанёс сталіцу свайго княства ў Адоеў. У 1385 прымаў удзел у маскоўскім паходзе на Разанскае княства. Апошні раз упамінаецца ў маскоўска-разанскім дагаворы 1402. Яго сыны Васіль, Леў і Юрый сталі родапачынальнікамі адпаведна князёў Бялёўскіх, Варатынскіх і Адоеўскіх.

*Літ.*: Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995.

***Віктар Цемушаў.***

**«Навіна»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 200 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Бжоскі, Гулевічы, Златніцкія, Язерскія. У блакітным полі выява сярэбранага мяча над сярэбранай кацельнай



Герб «**Навіна**».

дужкай; клейнод — над прылбіцай з каронай сагнутая ў калене залатая нага ў засцерагальным узбраенні. Першапачатковы колер поля чырвоны. Існуе варыянт герба з крыжом замест мяча. Герб вядомы з канца 13 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

***Валерый Пазднякоў.***

**навіцыят**, інстытут папярэдняй падрыхтоўкі і апрабацыі прэтэндэнтаў на членства ў каталіцкім манаскім ордэне. Звычайна перыяд Н. 1 год. На працягу гэтага тэрміну навіцый павінен беспярэчна падпарадкоўвацца ордэнскаму кіраўніцтву, насіць уласцівае ордэну адзенне і выконваць яго статут.

**навука**, сукупнасць гістарычна абумоўленых тэарэтычна-практычных ведаў аб сусвеце; якасна своеасаблівая сфера пазнавальнай дзейнасці чалавека і гістарычны сацыяльны інстытут выпрацоўкі гэтых ведаў.

Фарміраванне і развіццё філасофскіх уяўленняў у ВКЛ праходзіла пад істотным уплывам антычнай культуры. Антычная філасофская спадчына адлюстроўвалася і распаўсюджвалася ў перакладных літаратурных творах (трактат Іаана Дамаскіна «Крыніца ведаў», зборнікі выказванняў філосафаў, пісьменнікаў, айцоў царквы «Пчала», «Ізмарагд» і інш. Прыкладна з 14 ст. элементы антычнай культуры пранікаюць у ВКЛ і з краін Зах. Еўропы (праз ураджэнцаў ВКЛ, атрымаўшых адукацыю ў замежных універсітэтах). У 15—16 ст. у ВКЛ сфарміраваліся неабходныя ўмовы для развіцця рэнесанс-на-гуманістычнай філасофіі (Ф.*Скарына*, С.*Будны*, Б.*Будны*, Л.*Зізаній*, М.*Гусоўскі*, А.*Волан* і інш.). Да канца 18 ст. ролю афіцыйнай філасофіі ў ВКЛ адыгрывала схаластыка. З сярэдзіны 18 ст. пачала развівацца эклектычная філасофія (А.*Скарульскі*, С.*Шадурскі*, Б.*Дабшэвіч* і інш.). 2-я пал. 18 ст. характарызуецца шырокім распаўсюджваннем у ВКЛ ідэй філасофіі *Асветніцтва*. Заслугоўвае ўвагі і асабісты інтарэс асобных знакамітых асветнікаў да падзей у ВКЛ. Так, Вальтэр у кнізе «Гістарычны і крытычны вопыт нязгоды цэркваў у Польшы» асуджаў бясчынствы каталіцкай шляхты ў Мсціслаўлі. Філасофія Асветніцтва ў ВКЛ была арыстакратычнай па характары (І.*Масальскі*, І.*Храптовіч* і інш. прыхільнікі філасофска-эканам. вучэння фізіякратаў) і даволі эклектычнай па змесце. У апошняй трэці 18 ст. паслядоўнікі ідэй філасофіі Асветніцтва ў ВКЛ займаліся трактоўкай пераважна грамадска-паліт. праблем. Важнейшай рысай гэтага перыяду была рашучая крытыка правідэнцыялізму. У 1780—90-я г. прыкметна ўзмацніліся дэмакратычныя плыні і тэндэнцыі асветніцкай філасофіі (Я.*Ясінскі*, Ю.*Яленскі* і інш.).

Даследаванні філасофскіх праблем у ВКЛ былі цесна звязаны з вывучэннем логікі. Да эпохі Асветніцтва традыцыйны схаластычны тып логікі выкладаўся як састаўная частка курса філасофіі. Логіка звычайна падзялялася на 2 раздзелы: «малую логіку» (або дыялектыку) і «вял. логіку» (ці проста логіку). Праблему суадносін агульнага і асобнага аўтары рукапісных трактатаў-лекцый для студэнтаў аналізавалі з пазіцый умеранага наміналізму (Ф.Кініксман, Б.Мажэйка, Ф.Андрушкевіч і інш.). Даследаваліся магчымыя камбінацыі з сярэднім тэрмінам шляхам параўнання лагічных фігур Арыстоцеля і



Галена адносна яго месцазнаходжання. Фарміравалася блізкае матэматычнай логіцы паняцце нулявога мноства. Даволі высокую ступень развіцця мела вучэнне аб супазіцыі. Апісваліся заканамернасці лагічнага квадрата, законы ўзаемасувязі кантрарных і кантрадыкторных выказванняў. З сярэдзіны 18 ст. ў ВКЛ ажыццяўляўся пошук кампрамісу паміж схаластыкай і логікай новага часу. У 1769 у Вільні апублікавана работа К.*Нарбута* «Логіка». Яна стала асн. падручнікам па логіцы ў школах Літвы і Беларусі апошняй трэці 18 ст.

Развіццё этыка-гуманістычных канцэпцый у ВКЛ ад Скарыны да канца 18 ст. праходзіла гал. чынам у 3 напрамках: 1) умераным хрысціянска-гуманістычным (Скарына, С.Будны, *Міхалон Літвін*, Я.*Даманеўскі* і інш.); 2) радыкальным хрысціянска-гуманістычным (М.*Чаховіц*, *Пётр з Ганязі*, *Павел з Візны* і інш.); 3) атэістычным (К.*Лышчынскі*, К.*Бекеш*, С.*Лавейка* і інш.). Фундаментальная праблема этыкі ВКЛ эпохі Рэнесансу — праблема чалавека. Аднак манапалізацыя клерыкаламі сферы духоўнага жыцця ВКЛ абумовіла перавагу сярод тагачасных публікацый рэлігійных маралізатарскіх твораў. Правідэнцыялізм як гал. маральна-паліт. дактрына найб. выразна адлюстраваўся ў работах В.Тылкоўскага. Ідэалы рэнесансна-гуманістычнай этыкі ажывіла філасофія Асветніцтва. Тэзіс вызначальнага ўплыву «прыроды чалавека» і «натуральнага права» прысутнічае ў творах Г.*Страйноўскага*, М.*Пачобута-Адляніцкага*, Т.Млоцкага і інш. Пошукі ісцінная маралі на аснове вяртання спрадвечных, натуральных законаў быцця — сутнасць і пафас этыкі эпохі Асветніцтва ў ВКЛ.

Гал. асаблівасцю развіцця эстэтычных уяўленняў у ВКЛ быў іх полілінгвістычны характар. Сярэдневяковая эстэтыка пастаянна ўзбагачалася каштоўнасцямі фальклору. Эстэтычную ацэнку дзейнасці людзей, узвышаных і нізкіх момантаў жыцця давалі летапісы і хронікі. Эстэтычны фактар арганічна прысутнічае ў творах гуманістаў эпохі Рэнесансу. Рэальнае адлюстраванне навакольнага свету — стрыжань эстэтычнай канцэпцыі Гусоўскага. Эстэтычны падыход да знешняга і ўнутранага — важная рыса светапогляду Скарыны. Схаластызм і кансерватызм — асн. рысы езуіцкай эстэтыкі. Тым не менш, варта адзначыць яе вядомую пазітыўна-інфарматыўную каштоўнасць у распаўсюджванні ў ВКЛ дасягненняў зах.-еўрапейскай культуры. У эпоху Асветніцтва ўзрастала цікавасць да фальклорнай спадчыны. Этыка-эстэтычныя погляды больш выразна прасякнуты антыпрыгонніцкімі матывамі. Пытанні эстэтычнага выхавання моладзі былі ў цэнтры ўвагі *Адукацыйнай камісіі*.

Ход развіцця гістарычнай навукі ў ВКЛ першапачаткова адлюстроўваюць фальклорныя матэрыялы. Фальклор аказаў пэўны ўплыў на характар пісьмовых гіст. твораў (асабліва летапісаў). Станаўленне ВКЛ дало штуршок якасна новаму этапу бел.-літ. летапісання. Першым гісторыкам ВКЛ з'яўляецца храніст 16 ст. М.*Стрыйкоўскі* («Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі», 1582). У 1578 выйшла «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі» А.*Гваньіні*. Яна дазволіла зах.-еўрапейскай грамадскасці ўпершыню пазнаёміцца з гісторыяй вял. княства. Акрамя летапісаў поступу гіст. навукі ў ВКЛ у 16—18 ст. садзейнічалі і інш. творы свецкай літаратуры. Гіст. аргументацыя займала важнае месца ва уніяцкай палемічнай публіцыстыцы канца 16—17 ст. Актуальнымі тэмамі антыуніяцкай палемікі канца 16—першых дзесяцігоддзяў 17 ст. былі пытанні царк.-рэліг. гісторыі. Намер распрацаваць сістэматызаваны курс па гісторыі ВКЛ быў рэалізаваны А.*Каяловічам* у працы «Гісторыя Літвы» (ч. 1—2, 1650—69). Канцэнтраваным адлюстраваннем гіст. поглядаў заможных слаёў вял. княства ў 17—18 ст. стала ідэалогія *сарматызму*. У 1741 К.*Бартольд* уключыў гісторыю як самастойны прадмет у вучэбную праграму езуіцкіх школ ВКЛ. Асн. падручнікамі па гісторыі ВКЛ у 2-й палове 18 ст. сталі работы Ф.*Папроцкага* і К.*Вырвіча*. Значны аб'ём гіст. матэрыялу аб мінулым Літвы, Польшы і Беларусі даваў «Геаграфічны лексікон» І.*Карпінскага* (1766). «Дыпламатычны кодэкс Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага» М.*Догеля* фактычна заклаў фундамент археаграфіі і крыніцазнаўства ВКЛ. Асветніцкія традыцыі развіваў у працэсе выкладчыцкай дзейнасці праф. усеагульнай гісторыі (з 1782) Гал. школы ВКЛ Т.*Гусаржэўскі*.

Педагагічная навука на землях ВКЛ развівалася на аснове здабыткаў і традыцый народнай педагогікі. У межах Беларусі значнае распаўсюджванне атрымалі і «Азбукоўнікі» («Алфавітнікі»). Будучы слоўнікамі энцыклапедычнага кшталту для паяснення сэнсу цяжказразумелых тэрмінаў царк.-слав. літаратуры, яны дадаткова фармулявалі і правілы добрых паводзін. Творча асэнсоўвала праблемы выхавання моладзі рэфармацыйна-гуманістычная ідэалогія. Абгрунтоўваліся ідэі шматграннасці педагагічнага працэсу, пэўнага абмежавання царк. ўплыву на адукацыю, адказнасці дзяржавы за стан асветы ў грамадстве. Надзвычай каштоўныя палажэнні адносна мэт і сутнасці педагагічнай працы сфармуляваў Скарына. Значна ўплывала на развіццё педагагічных ведаў практычная дзейнасць настаўнікаў езуіцкіх і брацкіх навучальных устаноў. У перыяд Асветніцтва прапагандаваліся прынцыпы несаслоўнай адукацыі, навучанне моладзі на роднай мове. У 2-й пал. 18 ст. была ажыццёўлена рэформа піярскіх школ па плану С.Канарскага. Пасля роспуску ордэна езуітаў (1773) школамі ВКЛ стала кіраваць Адукацыйная камісія.

Тэарэтычным фундаментам прававой культуры ВКЛ выступала царк.-багаслоўская ўстаноўка аб нязменнасці ў сусвеце боскага парадку. Да 1-й чвэрці 16 ст. ў ВКЛ панавала звычаёвае права. Сур'ёзным вынікам паступовага развіцця прававой культуры стаў Казіміраў *прывілей 1447*. Гал. ўвагу нормам не звычаёвага, а пісанага права надаваў *Судзебнік 1468*. Характэрнай асаблівасцю фарміравання прававой культуры ВКЛ у 14—18 ст. была выдача гарадам грамат на *магдэбургскае права* і на стварэнне спец. органаў самакіравання. Гал. дасягненнем у сістэматызацыі права ў 16 ст. стала распрацоўка Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588. У эпоху Асветніцтва тэорыя права ў ВКЛ развівалася пад моцным уплывам вучэння фізіякратаў. Адным з віднейшых прадстаўнікоў фізіякратызму ў Польшы, Літве і Беларусі быў Страйноўскі. Яго асн. работа «Навука аб прыродным і палітычным пра-



ве, палітычнай эканоміі і праве народаў» (1785) стала падручнікам для вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў Польшы, Літвы, Украіны і Беларусі.

Матэматычныя веды ў ВКЛ развіваліся на аснове практычнага вопыту мінулых эпох, якія перадаваўся вусна або наглядна (лічэнне на пальцах і г.д.). У ВКЛ для розных разлікаў выкарыстоўвалася «арыфметыка на лініях». Гэты метад вылічэння прысутнічаў у матэматычных працах да канца 18 ст. У 14—17 ст. матэматыку вывучалі ў старэйшых класах брацкіх школ. У 3-м (пачатковым) класе Кіева-Магілянскага калегіума (з 1701 акадэміі) выкладалася арыфметыка, у вышэйшым (філасофскім) класе — астраномія і геаметрыя. Узровень вывучэння матэматыкі ў школах ВКЛ у 14—17 ст. абумоўліваўся гал. чынам патрабаваннямі грамадска-эканам. развіцця. Курсы арыфметыкі абмяжоўваліся дзеяннямі над цэлымі і дробным лікамі, правіламі рашэння элементарных задач. Тэарэтычныя пытанні асвятляліся шляхам знаёмства са зместам 5-й кнігі «Пачаткаў» Эўкліда. Практычны курс геаметрыі складаўся з планіметрыі і сукупнасці звестак аб вылічэнні плошчаў паверхняў і аб'ёмаў прасцейшых геаметрычных цел. Падрабязна характарызаваліся спосабы вылічэння на мясцовасці з дапамогай розных інструментаў. Звесткі па трыганаметрыі амаль не даваліся. У 1699 І.*Капіевіч* выдаў у Амстэрдаме першы друкаваны падручнік па арыфметыцы на рус. мове. Ураджэнец Беларусі Я.Накцыяновіч распрацаваў падручнікі «Матэматычныя лекцыі» і «Элементы геаметрыі». Істотны ўплыў на павышэнне ўзроўню матэматычнай адукацыі аказаў у канцы 18 ст. Пачобут-Адляніцкі.

Развіццё фізікі ў ВКЛ ажыццяўлялася на аснове эмпірычных назіранняў за з'явамі прыроды і знаёмства з замежнай літаратурай. Паступова ўдасканальваліся веды адносна вымярэння адлегласцей, аб'ёму вадкасцей і сыпкіх рэчываў. У 16—18 ст. фізіка як вучэбны прадмет не выдзялялася з натуральнай філасофіі. У 1675 у Вільні італьянец Т.Бурацін апублікаваў на італьянскай мове кн. «Missura universale», дзе прапанаваў сістэму мер і вагаў. Праф. матэматыкі О.*Кругер* (працаваў у Вільні і Нясвіжы) выдаў некалькі кніг па оптыцы. Ураджэнцам ВКЛ быў ваенны інжынер, тэарэтык артылерыі і ракетнай тэхнікі К.*Семяновіч*. У 1650 ён апублікаваў у Амстэрдаме працу, дзе апісаў тэхналогію вырабу пораху і шматлікія ваенныя прыстасаванні. Распаўсюджванне ідэй новай філасофіі абумовіла неабходнасць распрацоўкі новых вучэбных праграм у сферы эксперыментальных навук. У 2-й пал. 18 ст. апублікаваны першыя падручнікі па фізіцы. У 1753 у Віленскай акадэміі заснаваны кабінет эксперыментальнай фізікі. Аналагічныя кабінеты («музеі») ствараліся ў школах і калегіумах.

Паглыбляліся астранамічныя даследаванні. У 16—17 ст. астраномія была адным з прадметаў вучэбных праграм большасці брацкіх школ. Некалькі спец. прац па астраноміі напісаў Кругер. Ён развіваў ідэі Г.Галілея, падтрымліваў канцэпцыю М.Каперніка. У 1639 лекцыі Кругера па астраноміі былі апублікаваны яго вучнем А.Дыблінскім пад назвай «Сотня астранамічная». Архітэктар і матэматык Т.*Жаброўскі* распрацаваў праект і ў 1753 пабудаваў у Вільні абсерваторыю; вёў назіранні за рухам спадарожнікаў Юпітэра, рабіў разлікі руху камет і планет. Сістэматычныя даследаванні праводзіліся ў Віленскай абсерваторыі пад кіраўніцтвам Пачобута-Адляніцкага і Я.Снядэцкага. У апошняй чвэрці 18 ст. амаль ва ўсіх вучэбных праграмах па астраноміі мелася пытанне аб руху Зямлі і Сонечнай сістэмы.

На фундаменце астранамічнай навукі базіравалася развіццё ў ВКЛ геаграфіі. У 15—16 ст. дамінавала зацікаўленасць у тэарэтыка-метадалагічным абгрунтаванні пытанняў фізічнай геаграфіі (варта адзначыць працу А.Міроўскага па тэорыі вятроў «Theoria ventorum», 1596). Характэрнай рысай станаўлення геаграфічнай навукі ВКЛ было паглыбленае вывучэнне прац антычных аўтараў (Арыстоцеля, Плінія і інш.). Дзейсным стымулам росту інтарэсу да геаграфічных ведаў стаў пераклад на лац. мову «Геаграфіі» Пталамея. Геаграфічная навука ВКЛ эпохі Рэнесансу не выдзелілася поўнасцю з астраноміі. Да геаграфіі адносілі таксама і пачаткі геалогіі, геафізікі, акіянаграфіі, некаторыя гіст.-этнаграфічныя моманты. У той жа час праблемы метэаралогіі і кліматалогіі адносілі да фізікі. Пашыралі кругагляд насельніцтва ВКЛ і апісанні разнастайных замежных падарожжаў. Шырокую вядомасць у 17—18 ст. набыла кніга-дзённік «Хаджэнне ў Святую зямлю» М.К.*Радзівіла* Сіроткі, які ў 1582—84 пабываў у Егіпце, Палесціне, Сірыі, Італіі, Далмацыі, на Кіпры і Крыце. У дзённіку апісаны звычаі розных народаў, асаблівасці клімату горных раёнаў, флора і фауна Сірыі, Палесціны, Егіпта. У 1613 Радзівіл выдаў карту ВКЛ з невял. геаграфічным нарысам. У 1721 апублікавана на лац. мове кніга Г.Жаўчынскага «Гісторыя займальных прыродных з'яў Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага». Да сярэдзіны 18 ст. адносіцца апісанне вандраванняў па Турцыі, Рас. і Аўстрыйскай імперыях ураджэнкі Навагародчыны лякаркі С.*Пільштын*. Як дапаможная гіст. дысцыпліна геаграфія выкладалася ў Віленскай акадэміі з самага пачатку яе дзейнасці.

Развіццё біялагічных ведаў у ВКЛ першапачаткова ажыццяўлялася намаганнямі натуралістаў-аматараў. Больш глыбокія пазнанні распаўсюджвалі выпускнікі замежных універсітэтаў. У 1602 заснавана кафедра батанікі ў Кракаўскім універсітэце. Сістэматычная праца па складанні каталогаў і вял. гербарыяў стала характэрнай асблівасцю тагачаснай фларыстыкі. Зацікаўленасць праблемамі эвалюцыйнай тэорыі, генетыкі і метабалізму праглядаецца толькі ў 18 ст. ў біялагічных раздзелах філасофскіх прац Дабшэвіча, Шадурскага, Скарульскага і інш. У 1775 у Гародні пачаў сваю дзейнасць Ж.Э.*Жылібер*. Ім быў закладзены *Гарадзенскі батанічны сад*. У 1785 праф. батанікі і заалогіі Гал. школы ВКЛ С.Юндзіл (гл. ў арт. *Юндзілы*) заклаў невял. батанічны сад у Шчучыне. У 1791 ён апублікаваў кн. «Апісанне раслін у правінцыі ВКЛ...». З сярэдзіны 18 ст. павялічыўся ўплыў новага, эмпірычнага прыродазнаўства. Рабіліся спробы тлумачэння шэрагу функцый арганізма з пазіцый механікі, трактоўкі раслін як самарэгулюючыхся сістэм.

Вытворчыя патрэбнасці ў 16—17 ст. садзейнічалі пошуку эфектыўных спосабаў атрымання чыстых солей і кіслот, больш дасканалай методыкі



прыборнага аналізу. Больш грунтоўна пачынаюць вывучацца пытанні х і м і і. На рубяжы 17—18 ст. распрацаваны курсы хіміі, дзе апісаны хімічныя аперацыі і прыёмы атрымання і ацэнкі якасці розных рэчываў. Даволі шырокую вядомасць у ВКЛ мела праца Скарульскага «Каментарыі па філасофіі...» (1755), якая давала характарыстыку хімічных уласцівасцей некаторых рэчываў і элементаў.

Фальклорныя і пісьмовыя крыніцы сведчаць аб наяўнасці ў насельніцтва ВКЛ ведаў у галіне м е д ы ц ы н ы. Найб. разгорнута ў рукапісных дакументах даецца характарыстыка інфекцыйных захворванняў (з нагоды значных негатыўных наступстваў для вял. княства шматлікіх эмідэмій ). У архіве Радзівілаў захоўваўся рукапіс 1640 «Медыцынскія прадпісанні супраць маравой пошасці». У 15—16 ст. у ВКЛ з'явіліся першыя *шпіталі*. Ёсць звесткі аб існаванні з 16 ст *аптэк* як самастойных устаноў. Станаўленню і развіццю медыцыны на землях ВКЛ садзейнічалі і клерыкальныя колы: праграмы каталіцкіх навучальных устаноў 1596 змяшчалі курс «Асновы гігіены і лячэбнай справы». Лекары-манахі і аптэкары працавалі ў манастырах. Навуковыя погляды ў сферы медыцыны развіваліся на аснове сістэматызацыі вопыту назіранняў тагачасных лекараў-практыкаў. У 1770 надрукаваны лячэбнік рэфарматара сялянскіх гаспадарак П.К.Бжастоўскага (гл. ў арт. *Бжастоўскія*). У 1774 А.Тызенгауз запрасіў французскага ўрача і натураліста Жылібера для арганізацыі *Гарадзенскай медыцынскай акадэміі* (пры ёй дзейнічала бальніца на 60 месцаў). Першы выпуск спецыялістаў-медыкаў ажыццёўлены ў 1779. Праз 2 гады школа пераведзена ў Вільню, дзе на яе аснове адчынілі медыцынскі калегіум (пазней факультэт Гал. школы ВКЛ).

*Літ.*: Historia nauki polskiej. T. 1—2. Wrocław etc., 1970; Б и р а л о А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—XVIII в. Мн., 1971; Д о р о ш е в и ч Э.К., К о н о н В.М. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972; Г р и ц к е в и ч В.П. С факелом Гиппократа: Из истории бел. медицины. Мн., 1987; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии. Мн., 1990; П а д о к ш ы н С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Очерки истории науки и культуры Беларуси IX—начала XX в. Мн., 1996.

***Мікалай Рыбко.***

**навязка**, грашовы штраф, які назначаўся судамі ВКЛ за нанясенне ран, пабояў, крадзеж маёмасці, зроблены ўпершыню. Статут ВКЛ 1588 вызначаў выпадкі накладання Н. і яе памер у залежнасці ад характару злачынства, сац. становішча вінаватых і пакрыўджаных; Н. магла быць асн. або дадатковым пакараннем. За нанясенне матэрыяльных страт вінаваты акрамя іх кампенсацыі павінен быў плаціць яшчэ і Н. Статут вызначаў кошт розных рэчаў, маёмасці і свойскай жывёлы, з улікам якога суд устанаўліваў суму кампенсацыі і Н.

***Генадзь Маслыка.***

**наезд**, у ВКЛ напад на маёнтак, спалучаны з гвалтоўнымі дзеяннямі, пашкоджаннем ці рабаваннем маёмасці, захопам зямель і сялян. З дапамогай Н. феадалы імкнуліся павялічыць свае ўладанні і маёмасць або вырашыць спрэчкі самасудам. Звычайна Н. учыняў сам феадал з удзелам слуг або па яго падбухторванні гэта рабілі залежныя ад яго людзі. Пакаранне за Н. не было дакладна акрэслена ў Судзебніку 1468, таму ў кожным выпадку яго вызначаў сам вял. князь з панамі-радай. У Статуце ВКЛ 1588 Н. прысвечана 15 артыкулаў, якія адрознівалі некалькі відаў Н., у т.л. просты, гвалтоўны, крывавы, зроблены ў ваенны час. Пры вызначэнні пакарання ўлічваліся маёмаснае становішча і саслоўная прыналежнасць злачынцаў і пацярпелых. Справы пра Н. разглядалі *гаспадарскі суд, Трыбунал Вялікага княства Літоўскага, гродскі суд* таго павета, дзе адбылося злачынства. Злачынцы, схопленыя на месцы ці на працягу 24 гадзін пасля Н., падлягалі неадкладнай дастаўцы ў суд без папярэдняга ўручэння позваў. Злачынец, які без уважлівай прычыны не з'явіўся ў суд па позве ці адмовіўся ад яўкі, мог быць выгнаны за межы дзяржавы (за зробленае ім злачынства належала кара смерцю). За Н., абцяжараны забойствам, смяротнай кары падлягалі і саўдзельнікі, з іх спаганялася таксама двайная *галоўшчына* і кампенсацыя з *навязкай*. За нанясенне ран непасрэднага выканаўцу каралі смерцю, а саўдзельнікаў — турэмным зняволеннем. Шляхціц, члены сям'і якога зрабілі Н., павінен быў асабіста даставіць іх у суд, інакш да адказнасці прыцягвалі яго самога. Пацярпелыя мелі права на неабходную абарону і не неслі адказнасці, калі забівалі каго-небудзь з тых, хто нападаў. Пра нанясенне пабояў і ран сведчыў *возны*. Пасля гэтага рабілася афіцыйная заява ў суд з абавязковым занясеннем яе ў адпаведныя кнігі. Па справах аб Н. Статут вызначаў 3-гадовы тэрмін даўнасці. Калі на працягу яго пацярпелы не звяртаўся ў суд, то траціў права на судовы разгляд.

***Таісія Доўнар.***

**Найвышэйшая літоўская рада**, Н а й в ы ш э й ш а я р а д а В я л і к а г а к н я с т в а Л і т о ў с к а г а, часовы рэвалюцыйны ўрад у ВКЛ (Літве і Зах. Беларусі) у час *паўстання 1794*. Створаны ў пачатку паўстання пасля таго, як паўстанцы ўзялі ўладу ў Вільні. Абвешчана 24 крас. на Рыначным пляцы Вільні пасля ўрачыстага прыняцця «Акта паўстання народу Вялікага княства Літоўскага». У склад рады ў большасці ўвайшлі прадстаўнікі левага крыла шляхецка-буржуазнага блока — *«віленскія якабінцы» Я.Ясінскі, Т.Ваўжэцкі*, І.Гелгуд і інш., а таксама прадстаўнікі з месцаў — ваявода навагародскі Ю.Несялоўскі, стараста менскі М.Бжастоўскі, падкаморы рэчыцкі С.Валовіч, маршалак аршанскі М.Храпавіцкі, дэлегаты ад гарадоў, Слонімскага, Навагародскага, Лідскага пав. (усяго 29 асоб). У першы перыяд паўстання (крас.—май 1794) кіруючую ролю ў радзе адыгрывалі «віленскія якабінцы» на чале з Ясінскім. Рада выступіла з больш радыкальнымі лозунгамі, чым кіраўніцтва паўстання ў Польшчы, якому яна фармальна падпарадкоўвалася. 24 крас. рада звярнулася з адозвай да жыхароў Беларусі і Літвы ўзяць у рукі зброю «з мэтай адваяваць свабоду і грамадзянскае раўнапраўе» (чаго не было ў акце паўстання ў Польшчы). 24 і 25 крас. рада ўтварыла паўстанцкія органы кіравання на месцах — цывільна-вайсковыя парадкавыя камісіі. У складзе рады былі ўтвораны дэпартаменты (пазней — дэпутацыі) парадку (адміністрацыі і парадку), публічнай бяспекі, бюджэту і таемны (кіраваў войскамі). З мая рада прызначыла Ясінскага начальнікам



узброеных сіл. Быў абвешчаны набор у войска як шляхты, так і сялян. Памяркоўныя элементы рады выступілі супраць спроб кіраўніцтва абвясціць свабоду сялянам і за большую падпарадкаванасць кіраўніцтву паўстаннем у Польшчы. Абвастрыліся адносіны паміж Т.Касцюшкам, агульным начальнікам паўстання, і кіраўніцтвам рады. Касцюшка абвінаваціў раду ў дзеяннях супраць «уніі братніх народаў» і ў прыхільнасці да незалежніцкай палітыкі. 4 чэрв. ён адхіліў Ясінскага ад кіраўніцтва паўстаннем як радыкала. 10 чэрв. загадам Касцюшкі рада распушчана і заменена *Цэнтральнай дэпутацыяй Вялікага княства Літоўскага*, створанай з больш памяркоўных дзеячаў. *Найвышэйшая нацыянальная рада* ў Варшаве ўзяла пад свой кантроль кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі, чым скавала ініцыятыву мясцовых кіраўнікоў.

*Літ.*: Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji kościuszkowskiej. Wiedeń, 1909; Пичета В.И. К истории восстания Костюшко 1794 г. // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1953. Т. 7; Грыцкевіч А.П. Паўстанне 1794 г.: передумовы, ході вынікі // Бел. гіст. часопіс. 1994. № 1; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994; Емяльянчык У. Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі на Беларусі). Мн., 1994.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Найвышэйшая нацыянальная рада**, цэнтральны орган цывільнай паўстанцкай улады ў Польшчы ў час *паўстання 1794*. Яшчэ да яго пачатку ва ўмовах канспірацыі было вырашана перадаць для падрыхтоўкі паўстання вайсковую дыктатарскую ўладу генералу Т.*Касцюшку*, які знаходзіўся ў эміграцыі ў Саксоніі. 24.3.1794 Касцюшка абвясціў на плошчы Гал. рынак у Кракаве Акт паўстання, якім ён прызначаўся найвышэйшым начальнікам паўстання і галоўнакамандуючым. Яму дарučалася ўтварыць Н.н.р. — гал. кіруючы орган паўстання. Мясцовымі органамі ўлады станавіліся парадкавыя камісіі ваяводстваў і паветаў са шляхты і мяшчан. 17—18.4.1794 паўсталі гараджане Варшавы, дзе была створана Часовая замяшчальная рада кіраўніцтва варшаўскага паўстання. Аднак Касцюшка насцярожана паставіўся да яе, як і да *Найвышэйшай літоўскай рады*, баючыся дэцэнтралізацыі паўстання. 28.5.1794 ён утварыў Н.н.р. (засядала ў Варшаве) і падпарадкаваў ёй Найвышэйшую літ. раду. У яе склад уваходзілі начальнік паўстання, 8 радцаў і 32 намеснікі радцаў. Гал. ролю ў радзе адыгрываў Касцюшка, якому яна афіцыйна перадала дыктатарскую ўладу. Мела 8 аддзелаў: парадку, бяспекі, юстыцыі, скарбу, харчавання, вайсковых патрэб, замежных інтарэсаў, нац. інструкцыі. Аддзелу скарбу быў даручаны выпуск папяровых грошай, аддзел харчавання забяспечваў харчаваннем армію і ўвесь край, аддзел нац. інструкцыі кіраваў школамі ўсіх ступеней, «пашыраў нац. дух» праз газеты і часопісы, на публічных сходах і ў касцёлах. Рада прымала пастановы калегіяльна (старшыня змяняўся кожны тыдзень), яе аддзелы выдавалі распараджэнні ў сваіх галінах кіравання. Загады і пастановы начальніка паўстання падлягалі безумоўнаму выкананню. Рада складалася са шляхты і мяшчан, сярод іх былі прадстаўнікі прагрэсіўнага шляхецка-буржуазнага блока (Г.*Калантай*, І.Патоцкі, І.Закшэўскі). Паміж рэвалюцыйна настроенымі дзеячамі («якабінцамі») і памяркоўнымі рэфарматарамі ўвесь час ішла паліт. барацьба. У радзе былі прадстаўнікі розных канфесій, у т.л. кіраўнік правасл. царк. іерархіі ў Рэчы Паспалітай — ігумен Бельскага манастыра, старшыня Пінскай кангрэгацыі Сава Пальмоўскі. Рада дзейнічала і пасля таго, як цяжка паранены 10.10.1794 у бітве пад Мацяёвіцамі Касцюшка трапіў у палон. 12.10.1794 яна прызначыла начальнікам паўстання ўраджэнца Беларусі генерал-лейтэнанта Т.Ваўжэцкага. Рада спыніла сваю дзейнасць 4.11.1794 перад капітуляцыяй Варшавы войску А.В.Суворава.

*Літ.*: Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji kościuszkowskiej. Wiedeń, 1909; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. 4 wyd. Warszawa, 1985; Грыцкевіч А.П. Паўстанне 1794 г.: перадумовы, ход і вынікі // Бел. гіст. часопіс. 1994. № 1; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**найміт**, у ВКЛ слуга, парабак, якога наймалі рамеснікі, гандляры ці купцы для працы ў горадзе. У 15—16 ст. Н. называлі наёмных матросаў на рачных суднах («малайцы»), рабочых на гар. пристанях, а таксама нанятых на пэўны час больш бедных рамеснікаў. У падатковых рэестрах і пастановах соймаў Рэчы Паспалітай 16—17 ст. Н. — пастаянная катэгорыя гар. насельніцтва, для якой існавалі асобныя квота і нормы грашовых падаткаў.

**Накцыяновіч** Якуб (1.5.1725, Беларусь — 1777), матэматык. З 1742 чл. Таварыства Ісуса. Скончыў Полацкі езуіцкі калегіум і Віленскую акадэмію, дзе выкладаў у 1758—62 матэматычныя дысцыпліны, загадваў кафедрай матэматыкі, у 1758—64 кіраваў астранамічнай абсерваторыяй. У далейшым выкладаў філасофію ў Вільні (1762—65; 1768—71), матэматыку і фізіку ў Навагародку (1766—68), тэалогію і кананічнае права ў Гародні (1771—73) і Вільні (1773—74). З 1773 дэкан філасофскага ф-та Віленскай акадэміі. У сааўтарстве выдаў зборнік практыкаванняў па канечным і бесканечным аналізе «Exercitationes in analysi cum finitorum tum infinitorum» (1758), падручнік «Матэматычныя лекцыі» («Praelectiones mathematicae», т. 1—2, Вільня, 1759—61), творы па матэматыцы і філасофіі. Падтрымліваў прынцыпы навукі новага часу.

*Літ.*: Piechnik L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 4. Rzym, 1990; Очерки истории науки и культуры в Беларуси IX—нач. XX вв. Мн., 1996; Гячяускас Э. Математика в Вильнюсском университете до 1832 г. // Литовский математический сборник. Вильнюс, 1979. Т. 19. № 2.

***Павел Космач.***

**«Наленч»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 400 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Малахоўскія, Машынскія, Рачынскія, Чарнкоўскія. У чырвоным полі выява сярэбранай круглай павязкі, якая звязана ўнізе; клейнод — над прылбіцай з каронай жаночая постаць у чырвонай сукенцы і з сярэбранай павязкай на галаве, трымаецца рукамі за аленевы рогі. Першапачаткова павязка на шчыце не была звязана. Вядомы з 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Налібоцкая шкляная мануфактура**, прыгонная шкляная мануфактура, заснаваная ў 1717 Радзівіламі ў в. На-

лібакі і Янкавічы Навагародскага пав. (цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Адна з буйнейшых шкляных мануфактур 18—19 ст. у Беларусі. Выраблялa люстэркі, люстры для сцен і столі, жырандолі і падсвечнікі, шмат мастацкага і побытавага посуду. Створана на высокім тэхнічным узроўні на ўзор Дрэздэнскай мануфактуры. Тут варылі рэдкае рубінавае шкло, якое афарбоўвалі калоідным золатам паводле нямецкай тэхналогіі 17 ст. Шмат посуду на мануфактуры выраблялася пад уплывам зах.-еўрапейскага мастацтва, але былі і самабытныя ўзоры, якія ў 18 ст. сталі традыцыйнымі: келіхі з пустацелымі цыліндрычнымі паддонамі і са званападобнымі чашамі, розныя формы пацешнага посуду і інш. Асн. маса вырабаў аздаблялася гравіраваннем, шліфоўкай і рэльефнай разьбой. У гравіраваных дэкорах сустракаюцца жартоўныя надпісы-парады, пажаданні, вершы, міфалагічныя і алегарычныя сюжэты, паляўнічыя сцэны, партрэты, гербы, арабескі, краявіды, выявы птушак, сабак; адлюстроўваліся самабытныя з'явы побыту, жартаў, забаў, сатырычныя сцэнкі з заняткаў мясцовых жыхароў, прыгажосць прыроды, флора і фауна Беларусі. Гравіраваныя выявы вылучаюцца рэалістычнай трактоўкай фігур, раслін, жывёл і краявідаў. Графічна трактаваны малюнак пераважае ў геральдычнай, геаметрычнай і расліннай арнаментацы. У вырабах падкрэсліваліся такія ўласцівасці шкла, як бляск, празрыстасць, брыльянтавае ззянне. Посуд выраблялі не толькі з


Герб «**Наленч**».

добраасветленага шкла і хрусталю, але і з празрыстага каляровага. Шмат рэчаў рабілі ў гутнай тэхніцы. Каляровы посуд ствараўся ў нар. традыцыйных формах: фляшы квартавыя зялёныя, цукарніцы сінія, сальнічкі белыя, салатнічкі фаянсавага колеру, келіхі фіялетавыя, бутэлькі чырвоныя і г.д. Посуд аздаблялі каляровай крошкай, у т.л. каляровыя сталовыя бутлікі і фляшы. Выраблялі посуд, аздоблены рубінкам (г.зн. рубінавым шклом), дробную пластыку, выразаную са шкла, кубкі з накрыўкамі, бакалы, шкляніцы, графіны, куляўкі (посуд без стоп), барылкі, збанкі для напіткаў і кветак, дзіцячыя цацкі, флакончыкі, шліфаваныя і гутныя аздобы для люстраў, падсвечнікаў і жырандоляў, як і на *Урэцкай шкляной мануфактуры*. Усяго на Н.ш.м. выраблялася больш за 100 найменняў вырабаў са шкла. Рысавальшчыкамі і гравіроўшчыкамі былі беларусы; замежныя спецыялісты займаліся выключна тэхналагічнымі працэсамі. Складаліся мясцовыя дынастыі майстроў шкляной справы: *Дубіцкія* і Александровічы (выхадцы са збяднелай дробнамаянтковай шляхты), Санцэвічы, Залескія, Рымашэўскія, Адамовічы, Сільвястровічы, Малішэўскія, Дашкевічы, Галубовічы і інш. Мануфактура існавала да 1866, шліфавальны цэх у в. Янкавічы — да 1798. Вырабы Н.ш.м. зберагаюцца ў Эрмітажы (С.-Пецярбург), Дзярж. гіст. музеі (Масква), Музеі этнаграфіі і мастацкай прамысловасці (Львоў), Нац. музеях у Кракаве і Варшаве. Традыцыі Н.ш.м. актыўна прадаўжаюць сучасныя бел. мастакі па шкле. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 82, 146.

*Літ.*: Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мн., 1977; Яе ж. Беларускае мастацкае шкло, XIX—пачатак XX ст. Мн., 1984; Яе ж. Гісторыя шкляной вясёлкі. Мн., 1986.

***Таццяна Скрыпчанка.***

**Налівайка** Севярын [Семярын; ?, мяст. Гусяцін, Падолія—21.4.1597], кіраўнік казацка-сялянскага паўстання на Украіне і Беларусі ў канцы 16 ст. З сям'і рамесніка-кушняра. Служыў у князя К.Астрожскага сотнікам. У 1594 арганізаваў на Брацлаўшчыне атрад нерэестравых казакоў, якіх у 1595 вадзіў паходамі ў Малдову і Трансільванію. Пасля вяртання з паходаў у 1595 узняў казацка-сял. паўстанне на Правабярэжжы Украіны (гл. *Налівайкі паўстанне 1595—96*). Задушыць паўстанне ўлады паслалі 7 тыс. рэестравых казакоў, і Н. перайшоў на тэр. паўд. Беларусі, дзе да яго далучыліся мясцовыя сяляне, мяшчане і дробная шляхта. Паўстанцы ўзялі Петрыкаў, Слуцк, Магілёў, Давыд-Гарадок, Тураў, Лахву, Пінск і пайшлі на Валынь. Вясной 1596 паўстанцкае войска было акружана каля мяст. Лубны на р. Саланіца. 17.7.1596 частка казацкай старшыны, каб апраўдацца перад каралеўскім урадам, схапіла Н. і інш. кіраўнікоў паўстання і выдала іх камандаванню ўрадавых войск. Пасля цяжкіх катаванняў Н. быў пакараны смерцю ў Варшаве.






Да арт. **Налібоцкая шкляная мануфактура**. Келіх з накрыўкай і кварта. 18 ст.

**Налівайкі паўстанне 1595—96**, антыфеадальнае казацка-сялянскае паўстанне на Украіне і Беларусі пад кіраўніцтвам С.*Налівайкі*. Восенню 1595, вярнуўшыся з паходаў у Малдову і Трансільванію, Налівайка ўзначаліў антыфеад. рух на Правабярэжнай Укра-



іне. Пры падтрымцы гар. нізоў казакі захапілі Луцк, разграмілі шмат магнацкіх і шляхецкіх маёнткаў на Падоллі і Валыні, у т.л. маёнтак кароннага канцлера Я.Замойскага. Апошні выслаў супраць Налівайкі 7-тысячны атрад рэестравых казакоў на чале з гетманам Р.Лабадой. Каб пазбегнуць сутыкнення з рэестраўцамі, Налівайка накіраваў свой атрад у Беларусь. Першым горадам, які занялі казакі, стаў Петрыкаў. 6.11.1595 яны захапілі добраўмацаваны г. Слуцк, у ваколіцах якога разграмілі магнацкія і шляхецкія маёнткі. Адзін з казацкіх раз'ездаў быў разбіты 25 ліст. каля Капыля войскамі К.Радзівіла. Шляхецкія харугвы сцягваліся да Клецка, Менска і Оршы. 27 ліст. казакі пакінулі Слуцк, узяўшы з сабой 12 гармат, 80 гакаўніц, 700 рушніц; жыхары Слуцка вымушаны былі заплаціць ім 5 тыс. коп літ. грошаў. Войска Налівайкі рушыла ў напрамку на Бабруйск, але, не дайшоўшы да яго, павярнула на Магілёў і 13 снеж. штурмам авалодала горадам. У Магілёве казакі знаходзіліся 2 тыдні. 25 снеж. да горада падышло ўрадавае войска на чале з рэчыцкім старастам М.Буйвідам. Налівайка і 2000 казакоў занялі пазіцыю па-за горадам, на Ільінскай гары каля Буйніцкага поля, агарадзіўшыся вазамі. Войска Буйвіда налічвала 18 тыс. чал., але зусім не мела артылерыі. Бітва цягнулася з ранку да вечара і не прынесла поспеху ні аднаму з бакоў (гл. *Буйніцкая бітва 1595*). З прыцемкамі казакі, адбіваючы ўсе атакі праціўніка, пачалі адыход у напрамку Быхаў—Рагачоў—Рэчыца—Петрыкаў. Рухаючыся ўздоўж Прыпяці, яны захапілі Давыд-Гарадок, Тураў, Лахву, Пінск. На ПдУ Беларусі дзейнічала частка рэестравых казакоў пад кіраўніцтвам М.Шавулы, якія падтрымалі Налівайку. Да вясны 1596 Налівайка з атрадам адышоў на Валынь, казакі Шавулы — ад Прапойска праз Быхаў на Чарнігаўшчыну. 2.4.1596 каля Белай Царквы атрады Шавулы і Налівайкі злучыліся і рушылі ўніз па Дняпры з мэтай перайсці рас. мяжу. Каронныя войска на чале з гетманам С.Жалкеўскім адрэзала шляхі адыходу, і казакі ўмацаваліся на р. Саланіца каля мяст. Лубны. Аблога працягвалася амаль 2 тыдні. У казацкім лагеры абвастрыліся супярэчнасці паміж рэестравымі і нерэестравымі казакамі. Частка казацкай старшыны, з надзеяй на каралеўскую амністыю, 17.7.1596 захапіла Налівайку, Шавулу і інш. кіраўнікоў паўстання і выдала іх Жалкеўскаму. У час перагавораў каронныя войска нечакана напала на казацкі табар. Некалькі тысяч казакоў былі забіты, праўрацца ўдалося толькі невял. частцы. Паўстанне было падаўлена.

*Літ.*: Кулиш П.А. История воссоединения Руси. Т. 2. СПб., 1847; Bielski J. Dalszy ciąg Kroniki polskiej... Warszawa, 1851; Костомаров Н.И. Южная Русь в конце XVI в. // Костомаров Н.И. Исторические монографии и исследования. СПб., 1867. Т. 3; Эварницкий Д.И. История запорожских казаков. Т. 2. СПб., 1895; Мемуары, относящиеся к истории Южной Руси. Вып. 2. Киев, 1896; Доманицький В.М. Козаччина на преломі XVI і XVII вв. (1591—1603) // Зап. Наук. т-ва ім. Шевченка. Львів, 1904—05. Т. 9—14; Грушевский М.С. История украинского казачества до соединения с Московским государством. Т. 1. Киев, 1913; Голобуцкий В.А. Запорожское казачество. Киев, 1957; Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975.

**налуконнае**, гл. *Палуконнае*.

**Нальшчаны**, геаграфічна-палітычная вобласць у складзе *Літвы*. Упамінаецца ў «Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы» пры апісанні падзей 1250 як зямля Nalsen паміж уладаннямі Лівонскага ордэна і ўласна Літоўскай зямлёй. Паводле найбольш пашыранага меркавання даследчыкаў, тэрыторыя Н. прыблізна суадносіцца з паўн.-ўсх. часткай арэала ўсх.-літ. курганоў (Аўкштайцкае і Свянцянскае ўзвышшы). У сярэдзіне 13 ст. Н. былі асобным княствам, палітычна залежным ад *Міндоўга*. У грамаце Міндоўга 1260 (лічыцца падробленай, але подпісы на ёй, напэўна, перанесены з сапраўднага прататыпу) прыгадваецца яго родзіч Гердзень Нальшчанскі (Gerdine de Naise). Аўтар «*Апісання земляў*», які прымаў удзел у каранацыі Міндоўга, згадвае Н. (Nalsani) у адным шэрагу з уласна Літвой, Ятвеззю і Жамойцю. У Іпацьеўскім летапісе Н. прыгадваюцца двойчы: у 1258 татары пры руху з Пд паслядоўна «воеваша земли Литовьскую и Нальшчаньскую», а ў 1264 з бацькоўскай Літвы рушыў на скарэнне мяцежных Н. і Дзевалтвы сын Міндоўга *Войшалк*. Апошні раз згадваюцца ў 1268, калі пад пратэктарат рыжскага арцыбіскупа перайшоў літоўскі нобіль Суксе «з правінцыі Н.» (Nalsen). Відавочна, пасля паходу Войшалка 1264 Н. трапілі пад непасрэдны кантроль вял. князя і страцілі паліт. адметнасць. З гэтага часу яны альбо разглядаліся проста як часткі Літвы, альбо паглыналіся абагульняючым тэрмінам *Аўкштайція*. *Герман з Вартберга* ў 1375 прыгадвае ў «зямлі літоўцаў» шэраг паселішчаў на тым абшары, дзе раней мусілі знаходзіцца Н.: Больнікі, Дубінкі, Гедройці, Малаты, Таўрагіні, Уцяна, Шашолы.

*Літ.*: Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1985. T. 1.

***Вячаслаў Насевіч.***

**намеснік**, 1) у ВКЛ у 14—15 ст. прадстаўнік вял. князя, якому належала адм.-гаспадарчая, фінансавая і судовая ўлада на тэр. былых самастойных княстваў. 2) У 16—17 ст. памочнікі *старасты* і *ваяводы*, якія ажыццяўлялі некаторыя адм.-судовыя функцыі ў паветах і ваяводствах.

**намесніцтва**, у ВКЛ адм.-тэр. адзінка, якой кіравалі *намеснікі* вял. князя. Большасць Н. утворана ў 14—15 ст. у выніку скасавання ўдзельных княстваў і падпарадкавання іх велікакняжацкай уладзе. Н. называлі таксама дзярж. воласці, што ўзнікалі пры падзеле былых княстваў. Самыя буйныя Н. з пач. 16 ст. сталі *ваяводствамі*, астатнія — *стараствамі* і *дзяржавамі*.

***Вячаслаў Насевіч.***

**намова**, абмова, у ВКЛ нарада суддзяў перад вынясеннем *выраку* (прыгавору). Адбывалася пасля слухання старон, сведак і адвакатаў, тлумачэння *вознага* пра абставіны справы і вынікі зробленага ім агляду месца злачынства, ран, шкоды.

**Намыслоўскі** Ян Ліцыній (пач. 1560-х г., мяст. Намыслаў, Сілезія—паміж 1633 і 1636), мысліцель-гуманіст, пісьменнік. Скончыў Кракаўскі ун-т. З 1585 рэктар арыянскай школы ў мяст. Іўе Ашмянскага пав. Распрацаваў праграму школы, уключыў у яе шэраг новых гуманітарных дысцыплін. З 1593 прапаведнік арыянскай суполкі ў Навагародку. Зблізіўся з С.*Будным* і Ф.Соцынам, прапагандаваў сацыніянства сярод бел. *антытрынітарыяў*. Быў вядомы як таленавіты публіцыст і прамоўца. Палемізаваў з езуітамі (М.Смігленкім) і кальвіністамі (А.Вола-



нам). У 1615 за атэістычныя погляды выключаны з навагародскай арыянскай суполкі. Аўтар падручніка «Зброя вучэння Арыстоцеля» (Лоск, 1586), у якім абвяргалася боскасць Хрыста, і зборніка вершаваных выказванняў маральна-павучальнага зместу «Сентэнцыі, неабходныя ў грамадскім жыцці» (Лоск, 1589; напісаны на лац., польскай і ням. мовах і з'яўляўся першым падручнікам замежных моў у ВКЛ). У 1592 выдаў на польскай мове «Анатомію і гарманічнасць хрысціянскага чалавека» (не захавалася, у 1636 перакладзена на нямецкую мову). У 1597 напісаў «Зварот да братоў-евангелікаў», у якім аддаваў прыярытэт розуму асобы. У палемічным творы «Каталісіс» (1598) выступіў супраць кальвінісцкай шляхты. Пераклаў з лацінскай на польскую мову кнігу А.Бусбеквіса «Тры шляхі Фердынанда» (Вільня, 1598).

*Літ.*: Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985; Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986; Парэцкі Я.І. Сымон Будны. Мн., 1975. С. 118—122; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белорусии и Литвы. Мн., 1970.

***Сяргей Казуля.***

**Нарановіч-Наронскі** Юзаф (паміж 1610 і 1616—крас. 1678), картограф, інжынер. Відаць, вучыўся ў гімназіі ў Кейданах. У 1639—40 займаўся картаграфічнымі працамі на Украіне. Каля 1644 паступіў на службу да пратэстанцкай галіны Радзівілаў. Па даручэнні Я.Радзівіла ў 1644 склаў план мяст. Любча і яе ваколіц, у 1645—53 праводзіў геадэзічныя здымкі і складаў карты маёнткаў Свядасць, Мерач, Віжуны, Кейданы, Аванты, Біржы, Дзяляцічы (каля Любчы), вострава на воз. Дрысвяты; пры гэтым выкарыстоўваў метад мясцовай трыянгуляцыі, астралябію, квадрант. У 1650-я г. напісаў вял. 3-томны дапаможнік «Кнігі матэматычных навук» (не быў надрукаваны, з яго захаваліся толькі кн. «Геаметрыя», да якой прыкладзены некаторыя ранейшыя планы, фрагменты кн. «Оптыка, або Перспектывы», куды ўваходзіў і трактат пра ваенную фартыфікацыю; надрукаваны ў 1957). З-за ганенняў на пратэстантаў у 1650-я г. пераехаў у Прусію, складаў карты рэгіёнаў і генеральную карту Прусіі. Распрацаваў план каналаў для злучэння Мазурскіх азёр, р. Прэголя і Дзейма з Нёманам, каб ажывіць гандаль Прусіі з ВКЛ і Расіяй. У 1665 напісаў твор «Артылерыя», пры падрыхтоўцы якога скарыстаў кнігу К.*Семяновіча* «Вялікае мастацтва артылерыі». Аўтар гіст. працы «Праўдзівае сведчанне гісторый пра найвышэйшую манархію скіфаў і сарматаў» (загінула ў 1671).

*Тв.*: Budownictwo wojenne. Warszawa, 1957.

*Літ.*: Маркушевич А.И. Новооткрытое произведение польской военно-технической литературы XVII в. // Книга: Исслед. и материалы. М., 1968. Сб. 17; Александрович С. Картографические труды Юзефа Нароновича-Нароньского на землях Великого княжества Литовского в середине XVII в. // Археографический ежегодник за 1966 г. М., 1968; Яго ж. Opis zabudowy miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1644 r. // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1962. № 3/4; Яго ж. Józef Naroński współautorem Beauplanowskich map Ukrainy i Dniepru z połowy XVII wieku // Pax et Bellum. Poznań, 1993; Яго ж. Pochodzenie Józefa Naronowicza-Narońskiego, twórcy topograficznej kartografii Litwy i Prus Wschodnich // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Bibliologia. Toruń, 2000. T. 4; Ragauskienė R., Karvelis D. 1645 m. Juzefo Naronovičiaus-Naronskio Biržų kunigaikštysėts žemėlapis: Radvilų valdos istorija ir kartografija. Vilnius, 1997.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нарбут** Андрэй Мікалаевіч (н. 18.5. 1930, г. Новасібірск, Расія), расійскі вучоны ў галіне машынабудавання, генеалог. Д-р тэхнічных навук (1977), прафесар. Засл. работнік вышэйшай школы Рас. Федэрацыі (1996). Скончыў Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя М.Э.Баўмана (1954). З 1954 працаваў на Маскоўскім аўтамабільным заводзе, з 1963 — ва Усесаюзным НДІ дарожных і будаўнічых машын, з 1969 выкладае ў Маскоўскім аўтамабільна-дарожным ін-це. З 1995 старшыня Маскоўскага рэгіянальнага аб'яднання Міжнар. асацыяцыі беларусістаў. Даследуе генеалогію родаў Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны. Аўтар кн. «Генеалогія Беларусі» («Генеалогия Белоруссии», вып. 1—4, Масква, 1994—96), дзе змясціў больш за 160 радаводаў княжацкіх і шляхецкіх родаў, «Генеалогія Украіны» («Генеалогия Украины», вып. 1, Масква, 1996). У серыі «Радаводныя росписы» (вып. 1—20, 1994—2004) апублікаваў радаводы Галіцыных, Гедройцаў, Гурак, Нарбутаў і інш.

*Літ.*: Хохлов В.П., Мельничук Г.А. Профессор в технике, профессионал в генеалогии: А.Н.Нарбуту — 70 лет // Вестн. архивиста. 2000. № 5—6 (змешчана бібліяграфія прац Н.).

**Нарбут** Казімір (свецкае Даніэль; 3.1.1738, маёнтак Яшнец Лідскага пав.—17.3.1807), мысліцель-асветнік, прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва ў Беларусі і Літве. З 1755 чл. ордэна піяраў. Вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, потым у Любяшоўскім навіцыяце і ў піярскім калегіуме ў Дубровіцы, з 1759 у піярскім калегіуме ў Вільні, каля 4 гадоў — у піярскім вучылішчы ў Рыме. У 1764 вярнуўся на радзіму, прызначаны прафесарам і прэфектам піярскага калегіума ў Дубровіцы (Пінскі пав.), дзе выкладаў усеагульную гісторыю, рыторыку і французскую мову. Пасля выкладаў філасофію ў Віленскім піярскім «Калегіум нобіліум», быў прэфектам піярскай друкарні. У 1773—75 як прыватны выхавацель быў у Германіі і Францыі. Пасля вяртання чл. *Адукацыйнай камісіі*, займаўся рэформай школьнага навучання ў Беларусі і Літве. Член «Таварыства па складанні элементарных кніг», напісаў 2 раздзелы для школьнага «Статута парафіяльных школ» і настаўленне «Аб інспектаванні школ». Аўтар падручніка «Логіка, або Навука аб разважанні і меркаванні» («Logika, czyli Rozważania i rozsądzania rzeczy nauka», Вільня, 1769), кнігі «Выбраныя філасофскія меркаванні» («Z filozofii wybrane zdania», Вільня, 1771). Захаваліся канспекты яго лекцый па філасофіі, рыторыцы, касмаграфіі, геаграфіі. Пераклаў з французскай мовы на польскую кнігу «Ваенная навука прускага караля для яго генералаў» (1771). У прадмове да яе выказаў сваё захапленне грамадскімі мерапрыемствамі, што ажыццяўляліся ў тагачаснай Беларусі, у прыватнасці будаўніцтвам Каралеўскага канала. Выступаў за вызваленне філасофіі ад схаластыкі і багаслоўя, за развіццё навукі. Крытыкаваў сістэму адукацыі ў акадэміях і калегіумах ордэна езуітаў, выступаў за свецкую сістэму адукацыі.

*Літ.*: Narbutt O. O pierwszym polskim podręczniku logiki. Łódź, 1958; Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Дубровский В.В. Казимир Нарбут. Мн., 1979; Памятні-

ки философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 291—319; Stasiewicz-Jasiukowa I. Kazimierz Narbutt (1738—1807). Warszawa; Lida, 2004.

**Нарбут** (Остык-Нарбут) Тэадор [Фёдар Яўхімавіч; 28.10(8.11).1784, маёнтак Шаўры Лідскага пав.—14(26).11.1864], гісторык, археолаг, інжынер. Скончыў Віленскі ун-т (1803). Служыў ваенным інжынерам у Пецярбургу, выкладаў у 2-м корпусе кадэтаў. У 1804 у складзе камісіі, якая займалася рэгуляцыяй рэчышча Нёмана. У 1807 быў паранены ў бітвах з французамі пад Тыльзітам і Астраленкай. У вайну Расіі са Швецыяй кантужаны пад Аба ў Фінляндыі, страціў слых. Аўтар праекта Бабруйскай крэпасці, кіраваў яе будаўніцтвам. У 1810 праводзіў археал. даследаванні курганоў пад Рагачовам. У 1812 працаваў у Вільні перакладчыкам у французскай канцылярыі. Пасля асеў у родных Шаўрах, займаўся гаспадаркай і гіст. даследаваннямі. Супрацоўнічаў з час. «Dziennik Wileński», «Tygodnik Wileński», «Biblioteka Warszawska», «Atheneum», «Pamiętniki Umysłowe», «Ondyna Druskienickich Zródeł» і інш. У час паўстання 1830—31 падтрымліваў кантакты з ген. А.Гелгудам, якому прыслаў планы Вільні, наглядаў за адліваннем гармат для паўстанцаў у Ворнях. У 1831 арыштаваны за напісанне антыўрадавых пасквіляў. Прымаў удзел у паўстанні 1863—64 разам з дачкой Тэадорай, сынамі Людвікам і Баляславам. Разам з жонкай быў асуджаны на высылку ў Сібір, але памёр у Вільні ў час следства. Пахаваны ў Начы.

Н. быў апантаным аматарам гісторыі. Усё жыццё збіраў гіст. і фальклорныя крыніцы. Гал. справай жыцця Н. стала напісанне 9-томнай «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» («Dzieje starożytne narodu litewskiego», ахоплівае перыяд да Люблінскай уніі 1569), якая выходзіла ў Вільні ў 1835—41. У прадмове да т. 2 дзякаваў за магчымасць працаваць у б-цы Храптовічаў у Шчорсах, А.Быхаўцу за магчымасць карыстацца ягонымі багатымі кніжнымі і архіўнымі зборамі. Меў таксама сваю багатую б-ку, у якой знаходзіліся «старадаўныя рукапісы, выпіскі з Тайнага архіва ў Караляўцы, метрыкі літоўскай, інфлянцкага архіва». Аднак асн. крыніцамі напісання «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» былі працы А.Кацэбу, Ё.Войгта, А.Каяловіча, М.Стрыйкоўскага. Крыніцазнаўчая база даследаванняў Н. была даволі абмежаваная, часта ён ішоў услед за канцэпцыямі названых аўтараў. Захапленне велічным мінулым ВКЛ часта заводзіла Н. ў бок ад навук. праўды. Для гіст. поглядаў Н. характэрны літвінскі патрыятызм, прычым этнічных літоўцаў і беларусаў ён успрымаў як адзіны народ ВКЛ. Н. адзначаў, што, «злучыўшыся з Польшчай, Літва добраахвотна здала сваю незалежнасць, трапіла ў хаос польскага безуладдзя, які пазбавіў яе знешняй абароны і значэння ў суседзяў, выдаў на водкуп знішчальных войнаў». Н. імкнуўся паказаць гісторыю літ. народа як аднаго з роўных еўрапейскіх народаў. Ён пісаў не гісторыю дзяржавы, як было прынята ў той час у польскай і рас. гістарыяграфіі, а менавіта гісторыю народа. У «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» гіст. праўда пераплецена з вымыслам, прычыны якога крыюцца ва ўзроўні гіст. навукі 19 ст. і грамадска-філасофскіх ідэях рамантызму.

У 1856 ён выдаў у Вільні «Малыя гістарычныя творы па гісторыі Літвы» («Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się»), дзе апублікаваў некалькі сфабрыкаваных ім самім крыніц па гісторыі ВКЛ. Прынята лічыць, што Н. стварыў некалькі фальсіфікатаў. Сярод іх «Успаміны Кібурга», Раўдансві кодэкс, «Аб абнясенні мурам Вільні». У т. 1 сваёй гісторыі ён узгадвае нейкую «старую аповесць, якая ў Мітрафанія з Пінска, in annal. Ruthenien знаходзіцца». З улікам таго, што Пінск адыгрываў значную ролю ў перыяд барацьбы Галіцка-Валынскага княства з Навагародкам, а сын Міндоўга Войшалк хаваўся ад Траняты ў Пінску, цалкам магчыма, што тут мог захоўвацца нейкі стараж. рукапіс, які мог бачыць Н. Аднак, як і большасць інш. крыніц, выкарыстаных у «Гісторыі», Н. не цытуе яго, а пераказвае ўласнымі словамі альбо тлумачыць на польскую мову, што ўскладняе крыніцазнаўчы аналіз. Н. спасылаўся таксама на «рукапіс ксяндза Даніэля Ладзяты, каноніка вендэнскага, дэкана радуньскага, пробашча радуньскага, дубіцкага і нацкага». Гэты рукапіс змяшчаў быццам бы інфармацыю пра самыя старыя сакральныя будынкі Вільні, спачатку язычніцкія, а пазней хрысціянскія. Яшчэ адну крыніцу, якая часта ўпамінаецца ў «Старажытнай гісторыі літоўскага народа», Н. пазначаў літарамі J.F.R. Гэта быццам была хроніка Яна Фрыдрыха Рывіюса, «сына знакамітага Яна Рывіюса». Н. паведамляе, што «набыў яе выпадкова ў Рэвелі ў 1808. Для літоўскай гісторыі важныя ўрыўкі з хронікі Ратунда і генеалагічныя табліцы літоўскіх князёў. Бясцэнны помнік мінуўшчыны ВКЛ. Цяжка здагадацца, ці гэты Рывіюс меў сапраўды ў руках «Літоўскую гісторыю» Ратунда, ці нататкі свайго бацькі». У розных месцах свайго твора Н. неаднаразова спасылаецца на хроніку Ратунда, альбо Мелецыюса, відаць, паводле J.F.R. Аб існаванні хронікі А.*Ратундуса* ён мог ведаць з хронікі Стрыйкоўскага, аднак нідзе пра гэта не згадвае. На сённяшні дзень хроніка Ратундуса застаецца адной з найб. таямнічых і загадкавых крыніц па гісторыі ВКЛ. Іл. гл. ў т. 1, с. 99.

*Тв.*: O kurhanach: badanie starożytności litewskich // Tygodnik Wileński. 1818. T. 7. № 123; Pomniki do dziejów litewskich. Wilno, 1846;

*Літ.*: Łowmiański H. Sfałszowany opis obwarowania m. Wilna // Ateneum Wileńskie. 1925. R. 3. Z. 9; Chodynicki K. Ze studjów nad dziejopisarstwem rusko-litewskiem: (T.z. Rękopis Raudański) // Там жа. 1925—6. R. 3. Z. 10—11; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Ненадавец А.М. Тэадор Нарбут. Мн., 1996; Tazbir J. Cudzym piórem...: Falsyfikaty historyczno-literackie. Poznań, 2002; Семянчук А. Тэадор Нарбут — гісторык Вялікага княства Літоўскага і Браслаўшчыны // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы VI-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 150-й гадавіне з дня нараджэння браслаўскага лекара, грамадскага дзеяча Станіслава Нарбута (1853—1926) 7—8 мая 2003 года. Браслаў, 2003.

***Альбіна Семянчук.***

**Нарбут** Юстын (каля 1773—25.9.1845), гісторык. З роду *Нарбутаў*, стрыечны брат Т.*Нарбута*. Вучыўся ў Віленскім ун-це. У час *паўстання 1794* камандаваў палком пяхоты ў баі пад Соламі. Пасля падаўлення паўстання пастаянна жыў у Лідскім пав. ў спадчынным маёнтку, у 1820 быў чл. паявятовага межавога суда. Апошнія гады



жыцця прысвяціў вывучэнню гісторыі краю. У 1818 у Гродне выйшла яго праца «Нарыс каранёў літоўскага народу», у якой прыведзены звесткі пра мясцовую гісторыю і міфалогію. Невял. тыраж гэтай кнігі хутка разышоўся, і ў 1820 выйшла 2-е выданне. У Вільні надрукавана яго праца «Унутраная гісторыя літоўскага народу з часоў Яна Сабескага і Аўгуста II» («Dzieje wewnętrze narodu litewskiego za Sobieskiego i Augusta II», т. 1—2, 1842, 2 выд. 1843). Ёсць меркаванне, што яна падрыхтавана ім на заказ прадстаўнікоў роду Сапегаў, таму што амаль цалкам прысвечана зацятай барацьбе паміж віленскім біскупам К.Бжастоўскім і гетманам К.Сапегам у 1693—1701. У рэцэнзіі на гэту кнігу Ю.І.Крашэўскі абвінаваціў аўтара ў невыкарыстанні важных гіст. крыніц і тэндэнцыйнасці, з-за чаго вобраз Сапегі атрымаўся залішне станоўчым, а Бжастоўскага — адмоўным.

**Нарбутас** (Narbutas) Сігітас (н. 1959, г. Шаўляй, Літва), літоўскі літаратуразнавец, перакладчык, бібліёграф. Д-р гуманітарных навук (1996), дацэнт. Скончыў Вільнюскі ун-т (1982). Працаваў у Кніжнай палаце Літвы, у 1987—96 — у Вільнюскім ун-це, з 1996 — у Ін-це літоўскай л-ры і фальклору (заг. аддзела стараж. л-ры, старшы навук. супрацоўнік). Даследуе старажытную літ. л-ру, гісторыю лацінскамоўнай л-ры ВКЛ, тэарэтычныя і практычныя аспекты бібліяграфіі кнігі ВКЛ. Аўтар кніг «Традыцыя і наватарства ў «Радзівіліядзе» Яна Радвана» («Tradicija ir originalumas Jono Radvano «Radviliadoje», Вільнюс, 1998), «Рэнесансная літаратура Літвы» («Lietuvos Renesanso literatūra», Вільнюс, 1998), «Ад лістоў Міндоўга да казанняў Карповіча: Агляд пісьменнасці ВКЛ XIII—XVIII ст.» («Nuo Mindaugo raštų iki Karpavičiaus pamokslų: XIII—XVIII a. LDK raštijos apžvalga», Вільнюс, 2000). Пераклаў з лацінскай мовы на літоўскую «Радзівіліяду» Я.Радвана (1997), «Жыццё вялікага князя маскоўскага Івана Васілевіча» П.Одэрборна (1999), «Кароткі пераказ спраў, здзейсненых святлейшым князем Крыштофам Радзівілам» С.Рысінскага (2000), дзённікавыя запісы Т.Білевіча пра падарожжа па краінах Еўропы (2003), «Гісторыю Літвы» А.Каяловіча (2003). Адзін са складальнікаў «Спіса лацінскіх кніг Літвы XVII ст.» («XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas», Вільнюс, 1998) і «Спіса лацінскіх кніг Літвы XV—XVI ст.» («XV—XVI a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas», Вільнюс, 2002).

*Тв.*: History of the Grand Duchy of Lithuania in the Works of Motiejus Strijkovskis // Martynas Mažvydas and Old Lithuania. Vilnius, 1998; Paulius Oderbornas ir jo «Didžiojo Maskvos kunigaikščio Ivano Vasiljevičiaus gyvenimas» // Oderbornas P. Didžiojo Maskvos kunigaikščio Ivano Vasiljevičiaus gyvenimas. Vilnius, 1999; Žmogiškumo sklaida Saliamono Risinskio raštuose // Risinskis S. Trumpas pasakojimas apie garsiuosius šviesiausiojo didiko Biržų ir Dubingių kunigaikščio Kristupo Radvilos žygius. Vilnius, 2000; The Mysterious Island: A Review of 13th—18th Century Literature of Grand Duchy of Lithuania. Vilnius, 2000; Lietuvių kilmės iš romnų legenda kultūrins integracijos šviesoje // Literatūros istorija ir jos kūrėjai. Vilnius, 2004.

**Нарбуты**, шляхецкі род герба «Трубы». Родапачынальнік баярын Нарыбут (Нарбут) атрымаў ад вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча [1432—40] маёнткі Армяны і Калтыняны ў Літве, а ад вял. кн. Казіміра [1440—92] — 7 людзей. Паводле родавай легенды, Н. былі адгалінаваннем магнацкага роду Осцікаў, таму часам пісаліся Осцікамі-Нарбутамі. Найб. вядомыя:

Войцех Нарбутавіч (?—1510?), сын Нарыбута (Нарбута). Намеснік ясвойнскі ў 1501, харужы дворны ў 1501—05, маршалак гаспадарскі ў 1505—09.

Войцех Войцехавіч (?—1540), сын Войцеха Нарбутавіча. Харужы вялікі ВКЛ з 1529.

Мікалай Войцехавіч (?—каля 1556), сын Войцеха Нарбутавіча. Староста крэўскі з 1538 або 1539, мазырскі (атрымаў староства да 1542), маршалак гаспадарскі ў 1546—53, ваявода падляскі з 1551. Са сваіх маёнткаў у Слонімскім, Свянцянскім і інш. паветах выстаўляў у войска 1200 воінаў.

Станіслаў Мікалаевіч (?—1596), сын Мікалая Войцехавіча. Стараста ашмянскі ў 1589, ваявода мсціслаўскі з 1595.

Юзаф (?—пасля 1797), лідскі стольнік, пасля харужы ў 1768—94, стараста мерацкі з 1773; пасол на соймы 1773 і 1780. Сакратар Таргавіцкай канфедэрацыі, у 1793 сакратар Камісіі паліцыі ВКЛ.

Антоні (?—пасля 1798), сын Казіміра (лідскага мечніка, войскага і маршалка). Пасол на соймы 1764 (падпісаў элекцыю караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага) і 1778 (быў абраны ў Скарбовую камісію ВКЛ). Лідскі канюшы ў 1770—72, падчашы ў 1773—84, стольнік у 1785—94, маршалак у 1797—98.

Дамінік (?—пасля 1807?), брат Антонія. Пасол на сойм 1764, удзельнічаў у элекцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Стараста міжэвіцкі з 1771, лідскі чашнік у 1770—74 і войскі ў 1775—94; дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1789, пасол на сойм 1782 і Чатырохгадовы сойм 1788—92, чл. «Згуртавання сяброў урадавай уставы». Падпісаў Віленскі акт паўстання 1794, чл. *Найвышэйшай літоўскай рады* (яе сакратар, чл. крымінальнага суда). Пасля падаўлення паўстання яго расшуквалі як адказнага за смяротнае пакаранне гетмана Ш.Касакоўскага.

Даніла (у манастве Казімір; 3.1.1738—17.3.1807), брат Антонія, філосаф, гл. *Нарбут* К.

Юстын (каля 1773—25.9.1845), гісторык, гл. *Нарбут* Ю.

Тэадор [8.11.1784—14(26).11.1864], гісторык, гл. *Нарбут* Т.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нарвенскі дагавор 1704**, саюзны дагавор паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, заключаны ў пачатку *Паўночнай вайны 1700—21*. Заключэнню дагавора садзейнічалі ваенныя поспехі Расіі ў 1702—03 і рост незадаволенасці ў Рэчы Паспалітай шведскімі войскамі, што ўвайшлі ў краіну. Падпісаны 19(30).8.1704 пад Нарвай рас. паслом Ф.А.Галавіным і паслом караля польскага і вял. князя літоўскага Аўгуста II Т.Дзялынскім. Складаўся з 8 пунктаў. Бакі абавязаліся сумесна дзейнічаць супраць шведаў і не заключаць сепаратнага міру. Расія прадастаўляла Рэчы Паспалітай 12 тыс. салдат, Рэч Паспалітая для барацьбы са шведамі — 48 тыс., на ўтрыманне якіх Расія павінна была выплачваць штогод 200 тыс. руб. да выгнання шведаў з тэр. Рэчы Паспалітай. Рэчы Паспалітай вярталіся заваяваныя ў шведаў гарады, што належалі ёй раней. З заключэннем Н.д. Рэч Паспалітая канчаткова была ўцягнута ў Паўн. вайну.

*Літ.*: Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 3. СПб., Королюк В.Д. Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1954. Т. 10; Глаголева А.П. Русско-польские отношения накануне Полтавской битвы // Краткие сообщения Ин-та славяноведения. М., 1955. № 14.

**Нарвойш** Францішак Міліконт (15.1.1742, Гадуцішская вол.—26.6.1819), матэматык. З 1756 чл. Таварыства Ісуса. Скончыў Віленскую акадэмію, дзе ў 1761—63 вывучаў курс матэматычных дысцыплін пад кіраўніцтвам французскіх езуітаў. У 1767—1808 (з перапынкамі) выкладаў матэматычныя дысцыпліны ў Віленскім ун-це, займаў розныя царк. пасады. Актыўна ўдзельнічаў у рэгуляванні рэчышча Нёмана (1767—72). У час рэформ А.*Тызенгаўза* Н., як мяркуемы дырэктар астранамічнай абсерваторыі ў Гародні, з мэтай набыцця абсталявання, азнаямлення з дасягненнямі фізіка-матэматычных навук 5 гадоў знаходзіўся ў Зах. Еўропе. З 1782/83 выконваў абавязкі праф. вышэйшай матэматыкі ў Віленскай акадэміі. Курс вышэйшай матэматыкі Н. ахопліваў дэферэнцыяльнае і інтэгральнае вылічэнні, аналітычную геаметрыю, тэорыю лічбаў, тэорыю радоў, пачаткі тэорыі верагоднасцяў. Н. меў званне каралеўскага матэматыка, быў абраны чл.-карэспандэнтам Італьянскага навук. таварыства (Верона), чл. Варшаўскага таварыства сяброў навук (1803), Віленскага фізіка-матэматычнага таварыства (1805), Віленскага таварыства навук і мастацтваў (1806).

*Літ.*: Жемайтис З. Выдающийся профессор старого Вильнюсского университета Франциск Нарвойш (1742—1819) // Литовский математический сборник. Вильнюс, 1964. Т. 4. № 2; Гячяускас Э. Математика в Вильнюсском университете до 1832 г. // Там жа. 1979. Т. 19. № 2; Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim. Wrocław etc., 1973.

***Павел Космач.***

**Нароўля** (цяпер горад, цэнтр Нараўлянскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мазырскім пав., на правым беразе Прыпяці. Вядома з 18 ст. як дзярж. маёнтак, які знаходзіўся ў вечным ленным уладанні Аскеркаў, на сойме 1764 прызнана іх прыватнай уласнасцю. У 1750—51 Н. зрабілася аб'ектам нападаў укр. *гайдамакаў*. Каля 1760 Р.А.Аскерка заснаваў у Н. царкву Іаана Багаслова. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 — 37 двароў, 139 жыхароў.

**Нарушэвіч** Адам Тадэвуш Станіслаў (20.10.1733, каля мяст. Лагішын, Пінскі пав.—8.7.1796), гісторык, паэт, асветнік. З роду *Нарушэвічаў*. Ахрышчаны ў Лагішыне як Адам Тадэвуш, з



А.Т.С.**Нарушэвіч**.

1781 карыстаўся імем Станіслаў. Вучыўся ў Пінскім езуіцкім калегіуме, дзе ў 1748 уступіў у ордэн езуітаў, у 1748—54 — у Віленскай акадэміі, у 1758—62 — у Ліёне (Францыя). Да 1773 выкладаў у «Калегіум нобіліум» і Рыцарскай школе ў Варшаве. У гэты час стаў вядомы і папулярны як паэт, пісаў панегірычныя оды, лірычныя творы, ідыліі, байкі, сатыры. У 1764 прадстаўлены каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму і хутка стаў яго набліжанай асобай. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) прыходскі святар у Нямянчыне каля Вільні, потым у Анікштах. З 1774 каад'ютар (намеснік) біскупа смаленскага, з 1775 намінальны біскуп эмаўскі, з 1781 пісар вялікі ВКЛ і сакратар (да 1786) *Пастаяннай Рады*. Суправаджаў караля ў паездках па Беларусі і Украіне, якія апісаў у кнігах «Дыярыуш падарожжа найяснейшага Станіслава Аўгуста, караля польскага, на Гарадзенскі сойм» (1784), «Дыярыуш падарожжа Станіслава Аўгуста, караля польскага, на Украіну» (1787; 2-е выд. 1788). З 1788 біскуп смаленскі (з сядзібай у Пінску), з 1789 — луцкі. Як сенатар прымаў удзел у працы Чатырохгадовага сойма 1788—92, уваходзіў у «Згуртаванне сяброў урадавай уставы». Адмовіўся ад удзелу ў Гарадзенскім сойме 1793, які зацвердзіў 2-і падзел Рэчы Паспалітай.

З пач. 1770-х г. вывучаў праблемы ўсеагульнай і айчыннай гісторыі. Удзельнічаў у стварэнні калектыўнай працы «Палітычная гісторыя старажытных дзяржаў» (1772), аўтары якой лічылі гал. задачай высвятленне прычын развіцця і заняпаду дзяржаў. Перыяд дзейнасці ў ВКЛ з 1773 стаў для Н. як гісторыка найб. плённым. Тут ён працягваў пачатую ў Варшаве працу над перакладам і выданнем твораў стараж.-рымскага гісторыка Тацыта (выдадзены ў 4 т. у 1772—83). У 1773—76 напісаў сваю першую буйную гіст. працу «Жыццё Яна Караля Хадкевіча, віленскага ваяводы, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага» (1781). Пачаты ім твор пра Л.Сапегу застаўся незакончаным. Па прапанове Станіслава Аўгуста Панятоўскага і з яго дапамогай Н. пачаў выдаваць «Гісторыю польскага народа». У 1780—86 выйшлі т. 2—7, якія ахоплівалі падзеі ад часоў кн. Мешка (канец 10 ст.) да абрання на польск. трон Ягайлы (1386); т. 1, дзе сабраны звесткі пра старажытнейшую гісторыю Польшчы, выйшаў пасмяротна (ч. 1—2, 1824). Структура гэтай працы традыцыйная, падзеі ў ёй выкладаліся паводле перыядаў панавання князёў і каралёў, аўтарскія адносіны да іх выкладзены ў заўвагах. Завяршэнню «Гісторыі...» перашкаджала адсутнасць сістэматызаваных матэрыялаў. Таму з 1781 Н. пры фінансавай падтрымцы караля пачаў збіраць гіст. крыніцы, здымаць копіі з гіст. дакументаў. Сабраны ім 231 том матэрыялаў, т.зв. «папкі Н.», мае вял. каштоўнасць і для сучаснай навукі (у большасці зберагаюцца ў Нац. музеі ў Кракаве). На фарміраванне яго поглядаў паўплывалі ідэалогія Вальтэра, Мантэск'ё і інш. французскіх асветнікаў. Гал. рухавіком гіст. працэсу Н. лічыў чалавечы розум, асветніцтва. Яго лічаць заснавальнікам «школы Н.» ў гістарыяграфіі, якая выступала за манархічны лад дзяржавы, моцную цэнтр. ўладу і тым



самым процістаяла гісторыкам рэспубліканска-ліберальнага кірунку «школы Лялевеля».

*Літ.*: Rutkowska M.N. Adam Naruszewicz and His History of the Polish Nation. Washington, 1941; Бирало А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979. С. 91—103; Grabski A.F. Perspektywy przeszłości. Lublin, 1983; Królikowska M. Szkoła naruszewiczowska... Warszawa, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нарушэвічы**, шляхецкі род герба «Вадвіч». Паходзяць ад літ. баярына Мантыгерда (Мантыгірда), полацкага намесніка ў 1396, родапачынальніка *Мантыгірдавічаў*. Меў сына Пятра, маршалка земскага ВКЛ. Яго сын Наруш даў імя роду, а ад унука, Войткі Нарушэвіча, пайшлі галіны роду. Найб. вядомыя:

Павел (?—1544), сын Войткі. Лацінскі пісар канцылярыі ВКЛ у 1516—24 і з 1532, дзяржаўца відзенскі і ашмянскі, пасля жыжмарскі, у 1532—44 — скірстымонскі, з 1536 — расейнскі. Пасол у Маскву ў 1532.

Мікалай Ян (?—16.4.1575), сын Паўла. З 1544 вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. Служыў Жыгімонту II Аўгусту. Староста ваўкавыскі ў 1556, пасля маркаўскі і мядзельскі, каралеўскі сакратар з 1558, адначасова з 1562 пісар ВКЛ. Адзін з ініцыятараў *валочнай памеры* ў ВКЛ. У 1554—55 праводзіў яе ў Берасцейскім старастве, да 1560 — у прыдняпроўскіх валасцях (Гомель, Магілёў, Мсціслаў, Орша, Свіслач, Мазыр, Бабруйск, Крычаў). У 1566 прызначаны падскарбіем земскім ВКЛ. Належаў да магнацкай апазіцыі Люблінскай уніі 1596, выступаў за права ВКЛ мець свае законы і склікаць асобныя соймы пры агульным з Польшчай абранні караля і вырашэнні пытанняў абароны і знешняй палітыкі на сумесных соймах. Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста выступаў за кандыдатуру царэвіча Фёдара Іванавіча на пасад Рэчы Паспалітай, падпісаў элекцыю Генрыка Валезы. Валодаў Хомскам і Жаберам у Пінскім пав., маёнткамі ў Троцкім пав. і Жамойці.

Станіслаў (?—1589), сын Пятра. Спраўца Гарадзенскага старaства ў 1563, цівун віленскі з 1564, кашталян мсціслаўскі з 1580 (?), смаленскі з 1588, дзяржаўца рэжыцкі і люцынскі. Кальвініст, падтрымліваў групоўку Радзівілаў. Падпісаў акт Люблінскай уніі 1569. Валодаў мястэчкамі Круглае ў Аршанскім, Відзы ў Браслаўскім пав., маёнткамі ў Берасцейскім і Падляшскім ваяв.

Мікалай (каля 1560—ліст. 1603), сын Мікалая Яна. Лоўчы ВКЛ у 1582—89, кашталян жамойцкі з 1588. Удзельнік Інфлянцкай вайны 1558—82. Шчыры кальвініст, якому прысвечана некалькі рэлігійных твораў. Валодаў Хомскам, Жаберам, Палачанамі ў Ашмянскім пав., паловай мяст. Косава і інш.

Ян (?—каля 1613), сын Мікалая Яна. Лоўчы ВКЛ з 1589. Удзельнік Інфлянцкай вайны 1558—82, аблогі Пскова. У 1582 абраны першым маршалкам Трыбунала ВКЛ. Пасол на соймы 1601, 1607, 1611. Вызнаваў кальвінізм.

Крыштоф (каля 1570—1630), сын Мікалая Яна. Вучыўся за мяжой, падарожнічаў па Германіі і Італіі. У 1611 перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва. Лоўчы ВКЛ у 1613—24, падскарбі надворны ВКЛ з 1615, падскарбі вялікі ВКЛ з 1618 і адначасова пісар ВКЛ, староста ушпальскі і навадворскі. Валодаў Ганусішкамі ў Троцкім пав., Мажэйкавам і Лебядой у Лідскім пав.

Аляксандр (?—каля 1653), сын Яна. З 1601 вучыўся ў Караляўцы, з 1608 у Гейдэльбергу і Марбургу (Германія), у 1612—13 у Італіі, у т.л. ў Падуі. Пасол на соймы 1627, 1632 (падпісаў элекцыю Уладзіслава IV), 1640. З 1645 кашталян жамойцкі. Шчыры кальвініст, старшыня кальвінісцкіх сінодаў ВКЛ у 1628, 1650 і 1652.

Станіслаў (? —27.5.1650), сын Крыштофа. У 1622 вучыўся ва ун-це Інгальштата (Германія). Служыў пры двары Жыгімонта III. Староста лідскі ў 1629—46, навадворскі з 1630. Пісар ВКЛ з 1630, адначасова рэферэндар свецкі ВКЛ у 1642—50. Пасол на соймы 1632 (удзельнічаў у элекцыі Уладзіслава IV), 1633, 1637, 1648, 1649. Быў даверанай асобай Сапегаў на каралеўскім двары.

Ян (?—1663), сын Крыштофа. Вучыўся ў Інгальштаце, Падуі і Балонні. Цівун вяшнянскі з 1638, чашнік ВКЛ у 1661, падскарбі надворны ВКЛ з 1661.

Аляксандр Крыштоф (?—21.6.1668), сын Крыштофа. З 1631 вучыўся ва ун-це ў Інгальштаце, з 1632 — у Падуі, у 1633 — у Балонні. Цесна звязаны з дваром караля Яна II Казіміра. У 1651—53 у складзе дэлегацыі на мірных перагаворах са Швецыяй, у 1654—58 пісар ВКЛ, у 1656 адміністратар скарбу ВКЛ, з 1658 падканцлер ВКЛ. Староста лідскі (з 1646), любашанскі, мядзельскі, пянянскі, шарашоўскі. Пасол на соймы 1647, 1648, 1654, 1655. Удзельнічаў у мірных перагаворах з Масквой у 1659—63.

Казімір Адам (3.3.1730—4.4.1803), рэліг. дзеяч, педагог. Вучыўся ў езуіцкіх установах Вільні, Прагі, Варшавы, атрымаў ступень доктара тэалогіі. У 1763 уступіў у ордэн езуітаў. У 1764—66 загадваў друкарняй Віленскай акадэміі, з 1766 выкладаў матэматыку і стараж.-яўрэйскую мову. З 1767 сакратар літ. правінцыяла (кіраўніка ордэна ў ВКЛ), з 1769 рэктар Віленскай акадэміі. Пасля скасавання ордэна (1773) пробашч у Петрыкаве, Касцяневічах. Сакратар Гал. школы ВКЛ у Вільні ў 1780—88.

Адам Тадэвуш Станіслаў (20.10.1733—8.7.1796), гісторык, паэт. Гл. *Нарушэвіч* А.Т.С.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нарымонт**, Нарымунт, Нарымант (у праваслаўі Глеб; каля 1294—2.2.1348), князь у ВКЛ. Другі сын вял. князя літоўскага *Гедзіміна* ад 1-га шлюбу. У гіст. крыніцах упамінаецца з 1331, калі Гедзімін затрымаў на Валыні наўгародскага архіепіскапа Васіля і адпусціў яго з умовай абрання Н. князем Ноўгарада. Відаць, тады ж Н. ахрышчаны. Ён прыбыў у Ноўгарад у кастр. 1333 і атрымаў у «кармленне» г. Ладага, Арэшак, Карэла, палову г. Капор'е. Каля 1335 з'ехаў з Ноўгарада, відаць, каб заняць полацкі пасад пасля смерці кн. Воіня. У Ноўгарадзе пакінуў замест сябе сына Аляксандра. У 1338 адмовіўся прыехаць на дапамогу наўгародцам для адбіцця шведскай агрэсіі і нават адклікаў Аляксандра з Арэшка. Аднак намеснікі Н. заставаліся ў Арэшку да 1348. Каля 1338 Н. разам з полацкім епіскапам Грыгорыем падпісаў дагавор з Рыгай (захаваўся толькі дататак, які абумоўліваў вольны гандаль). Пячатка Н. на гэтым дакуменце — магчыма, першы вядомы прататып герба «Пагоня», пра што было вядома і складальнікам бел.-літ. летапі-




Пячатка князя **Нарымонта** (правы і адваротны бакі).

саў, якія, аднак, блыталі Н. з міфічным кн. Нарымунтам Рамунтавічам (Раманавічам). У дагаворы Смаленска з Рыгай (каля 1390) Н. згадваецца як полацкі «кароль». Паводле «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», па завяшчанні Гедзіміна Н. атрымаў Пінскае княства, якое заставалася за яго нашчадкамі да канца 14 ст. (гл. *Нарымонтавічы*). У час праўлення вял. князя літоўскага Яўнута [1341—45] быў буйнейшым землеўладальнікам і, відаць, самым уплывовым князем у ВКЛ. Супраць яго і Яўнута выступілі браты *Альгерд* і *Кейстут*. Пасля захопу Альгердам велікакняжацкага пасада ў 1345 Н. уцёк да хана Залатой Арды Джанібека, а Альгерд перадаў Полацкае княства свайму сыну Андрэю. Н. каля 1346 вярнуўся. У 1347 удзельнічаў у паходзе супраць Тэўтонскага ордэна. Відаць, узначальваў войска ВКЛ у бітве з крыжакамі на р. Стрэва (гл. *Бітва на Стрэве 1348*), у якой і загінуў.

*Літ.*: Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig. 1863. Bd. 2. S. 75, 511; Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893. С. 276—277; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950. С. 345, 349; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1977. Вып. 1. С. 39—41; 1980. Вып. 3. С. 127—132; Полное собрание русских летописей. М.; Л., 1949. Т. 25. С. 170—176; 1975. Т. 32. С. 41, 68, 138; 1980. Т. 35. С. 68, 85, 97; Krupa K. Książęta litewscy w Nowogrodzie Wielkim do 1430 r. // Kwartalnik historyczny. 1993. № 1.

***Алесь Белы.***

**Нарымонтавічы**, група княжацкіх родаў у ВКЛ, Наўгародскай рэспубліцы і Маскоўскай дзяржаве, нашчадкі кн. *Нарымонта*, галіна *Гедзімінавічаў*. Найб. вядомыя:

Міхаіл, старэйшы сын Нарымонта, князь пінскі ў сярэдзіне 14 ст. Магчыма, тоесны Міхаілу, затрыманаму ханам Джанібекам у 1348 разам з інш. пасламі ВКЛ у Ардзе, а таксама Міхаілу, першаму вядомаму (з грэчаскага Ватыканскага зборніка сярэдзіны 14 ст.) друцкаму князю пасля далучэння Друцкага княства да ВКЛ, родапачынальніку князёў *Друцкіх*. Напаўфантастычны радавод Друцкіх, які захаваўся ў маскоўскай лініі гэтага роду, называе Міхаіла Друцкага сынам невядомага паводле інш. крыніц кн. Рамана, нібыта сына Аляксандра Уладзіміравіча Белзскага. Мабыць, гэта інфармацыя паказвае на сапраўднае паходжанне Міхаіла: брат Міхаіла Нарымонтавіча Юрый (а не Аляксандр) сапраўды княжыў у Белзе на Зах. Валыні і меў сына Рамана. Скажэнне радаводу маскоўскай галіной Друцкіх можа быць аднесена да сярэдзіны 16 ст., калі паходжанне ад Рурыкавічаў лічылася ў Маскоўскай дзяржаве больш прэстыжным і бяспечным, чым ад Гедзімінавічаў.

Аляксандр (?—да 1386), сын Нарымонта. Некаторы час да 1338 быў яго намеснікам ў г. Арэшак (Вял. Ноўгарад). Магчыма, яго сынамі былі Даніла і Юрый Аляксандравічы (князі капорскія?), згаданыя ў 1407.

Юрый (мянушка Нос; ?—пасля 1398), сын Нарымонта. У 1352 князь у Белзе, бараніў горад ад венгерскага караля *Людвіка I*. У 1354 як васал ВКЛ і Польшчы атрымаў Крэменец. У 1366 прызнаў сюзерэнітэт *Казіміра III* над Белзам і атрымаў ад яго Холмскую зямлю. У 1376 выступіў супраць польска-венгерскай гегемоніі на Зах. Украіне, разам з *Кейстутам* і *Любартам* рабіў паходы на Сандамір, Тарнаў і Кракаў. У адказ Людвік I арганізаваў у 1377 карны паход, у выніку якога Юрый страціў свае ўладанні на Валыні. У 1378—79 у Венгрыі, пасля пэўны час служылы князь у Вял. Ноўгарадзе. У 1387 дапамагаў Ягайлу выцесніць венграў з Галіча. У 1390—92 заложнік Вітаўта ў Нямецкім ордэне. У 1398 быў пінскім князем, падпісаў *Салінскі дагавор 1398*. У Хроніцы Быхаўца і «Хроніцы літоўскай і жамойцкай» паведамляецца пра яго намесніцтва ад імя Вітаўта ў Пскове ў 1410—20-х г., але гэта не пацвярджаецца рус. крыніцамі.

Патрыкей (?—пасля 1408), сын Нарымонта. У ВКЛ валодаў *Старадубскім княствам*. У 1383—86 і пэўны час да 1398 служылы князь у Вял. Ноўгарадзе. У 1408 выехаў у Маскоўскую дзяржаву ў світце Свідрыгайлы.




Да арт. **Нарымонтавічы**. Пячаткі князя Аляксандра Носа.

Раман (?—1398), сын Юрыя. Упершыню згадваецца ў 1379 побач з бацькам як служылы князь у Порхаве (Вял. Ноўгарад). У 1394 узначальваў наўгародцаў у вайне супраць Пскова, у 1395 — у паходзе на маскоўскія воласці Клічан і Усцюжня. Загінуў у бітве з маскоўскім войскам на р. Шалонь.

Іван (мянушка Нос; ?—12.8.1399), сын Юрыя. У 1386 атрымаў ад Ягайлы г. Любачоў на Валыні. Загінуў у *бітве на Ворскле 1399*.

Аляксандр (?— пасля 1410), сын Патрыкея. Князь у Старадубе, пасля 1407 у Корацы (Усх. Валынь). У 1402 удзельнічаў у бітве з разанцамі пад Любуцкам. Заснавальнік роду князёў *Карэцкіх* — адзінай галіны Н., якая засталася ў ВКЛ (згасла ў 1651).

Фёдар (?—1426), сын Патрыкея. Князь у Рыльску да ад'езду ў Маскву ў 1408. У 1420 намеснік вял. князя маскоўскага Васіля I у Вял. Ноўгарадзе, у 1424—26 — у Пскове. Заснавальнік рус. княжацкага роду Хаванскіх.

Юрый (?—пасля 1446), сын Патрыкея. З 1418 жанаты з дачкой вял. князя маскоўскага Васіля I (Ганнай ці Марыяй). Удзельнік феад. вайны ў Маскоўскай дзяржаве 1425—53 на баку Васіля II Цёмнага. Заснавальнік рус. княжацкіх родаў Булгакавых, Галіцыных, Куракіных, Шчаняцевых, Патрыкеевых.

Аляксандр (мянушка Нос; ?—пасля 1436), сын Івана Юр'евіча. У 1418 адзін з арганізатараў вызвалення Свідрыгайлы з Крамянецкага замка. У 1431 атрымаў ад яго Луцкае княства. Імкнучыся захаваць Луцк, спачатку падтрымліваў Свідрыгайлу ў барацьбе з Жыгімонтам Кейстутавічам, у 1434 перайшоў на бок апошняга, пазней вярнуўся да Свідрыгайлы. Памёр бяздзетным.

Паводле гісторыка Ю.Пузыны, да Н. належала дынастыя ўладальнікаў



Давыд-Гарадоцкага княства, заснавальнікам якой быў Дзмітрый, нібыта сын Нарымонта. Да яе належалі Давыд Дзмітрыевіч (?—да 1431) і Дзмітрый (Мітка) Давыдавіч (?—каля 1442).

*Літ.*: Stadnicki K. Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza... Lwów, 1867; Wolff J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; Яго ж. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Приселков М., Фасмер М. Отрывки В.Н.Бенешевича по истории русской церкви XIV в. // Изв. Отд-ния рус. языка и словесности Имп. АН. 1916. Т. 21, кн. 1; Puzyna J. Narymunt Giedyminowicz // Miesięcznik heraldyczny. 1930. № 3; Яго ж. Potomstwo Narymunta Giedyminowicza // Там жа. 1932. № 10; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987; Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV—первой трети XVI в. М., 1988.

***Алесь Белы.***

**Насевіч** Вячаслаў Леанідавіч (н. 20.7.1957, г. Віцебск), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1982). З 1983 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. З 1993 начальнік аддзела геральдыкі і генеалогіі Дзярж. к-та па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь. З 1998 дырэктар Бел. навук.-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, адначасова дацэнт кафедры крыніцазнаўства гіст. факультэта БДУ. Займаецца праблемамі гіст. інфарматыкі, гіст. геаграфіі і паліт. гісторыі Беларусі ў перыяд ВКЛ, бел. генеалогіяй.

*Тв.*: Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993; Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12—18 стст. Мн., 1993; Компьютерная модель в изучении исторических процессов // Метадалагічныя праблемы гістарычнай навукі. Мн., 1993; Зарница или заря? Компьютерное моделирование исторических процессов // Круг идей: развитие ист. информатики. М., 1995; На пути к модели общества как самоорганизующейся системы // Математическое моделирование исторических процессов. М., 1996; Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе. Мн., 2004.

**Настасся Іванаўна** (каля 1470—пасля 1524), княгіня слуцкая. Дачка кн. Івана Юр'евіча Мсціслаўскага (гл. ў арт. *Мсціслаўскія*) з роду Альгерда. Бацька памёр да 1489 без нашчадкаў-сыноў, і Н.І. з сястрой Ульянай стала спадчыніцай вялізных уладанняў, якія ўключалі Мсціслаў, Цяцерын, Княжыцы, Папову Гару, Дрокаў, Магілёў і інш., але страціла на іх правы. Выйшла замуж за слуцкага кн. Сямёна Міхайлавіча (гл. ў арт. *Алелькавічы*). Пасля нечаканай смерці мужа (1505) Н.І. пачала распараджацца Слуцкім княствам. У 1506 вытрымала ў Слуцкім замку аблогу крымскіх татараў. У 1507 прад'явіла прэтэнзіі на Мсціслаў, накіраваныя супраць кн. Міхаіла Мсціслаўскага (справа ўзнаўлялася яшчэ ў 1519 і 1522). У 1507 судзілася з пінскім і клецкім кн. Ф.В.Яраславічам пра абмен падвод. Магчыма, разам з сынам Юрыем у час *Глінскіх мяцяжу 1508* абараняла Слуцк ад войска А.А.Драджа (паведамленне М.Стрыйкоўскага, што аблогу ўзначальваў мяцежны кн. М.Л.Глінскі, які нібыта дамагаўся шлюбу з Н.І., не пацвярджаецца тагачаснымі крыніцамі). У 1509 вял. кн. Жыгімонт Стары пацвердзіў Н.І. права пажыццёва валодаць маёнткамі Лішкаў і Вяйсеі ў Мерацкім пав., якія даў ёй раней (былі забраны за здраду ў Глінскага). Наданне яшчэ раз пацверджана ў 1516 як узнагарода за заслугі яе мужа і будучыя заслугі сына (пра заслугі самой Н.І. нічога не гаварылася). У 1511 вяла судовую памежную спрэчку з Літаворам Храптовічам. У 1522 заключыла разам з сынам дагавор з гетманам кн. К.І.Астрожскім пра яго жаніцьбу на сваёй дачцы Аляксандры. У 1524 вяла судовую справу з М.Мсціслаўскім. Далейшы лёс невядомы.

***Валерый Пазднякоў.***

**Натансан-Лескі** (Natanson-Leski) Ян (17.11.1883, Варшава—27.12. 1969), польскі гісторык і географ. Д-р габілітаваны (1946), праф. надзвычайны (1957). Вывучаў прыродазнаўчыя навукі і сельскую гаспадарку ў Берне (Швейцарыя), Вроцлаве, скончыў Кракаўскі ун-т (1917). У 1920—36 выкладаў геаграфію і гісторыю ў сярэдніх і вайсковых школах Варшавы. У 1945—60 у Кракаўскім ун-це. Даследаваў змены дзярж. граніц Польшчы, Рэчы Паспалітай, ВКЛ (гал.ч. у 16 ст.). Аўтар шматлікіх гіст. карт.

*Тв.*: Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Granica moskiewska w epoce jagiellońskiej. Lwów; Warszawa, 1922; Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930; Zarys granic i podziałów Polski najstarszej. Wrocław, 1953; Państwo Mieszka Pierwszego: (Zagadnienia terytorialne). Wrocław, 1958; Rozwój terytorialny Polski: Od czasów najdawniejszych do okresu przebudowy państwa w latach 1569—1572. Warszawa, 1964.

*Літ.*: Żelewski R. Jan Natanson-Leski: (Wspomnienie i bibliografia prac) // Studia historyczne. 1970. Z. 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**натарыус** (ад лац. notarius пісар, сакратар), службовая асоба ў ВКЛ, якая мела права сведчыць здзелкі, перадачу спадчынных правоў і іншыя дзеянні для надання ім юрыд. моцы. Пасля сведчання Н. прыватнаправавыя дакументы набывалі моц публічнаправавых. Вядомы з канца 15 ст. Н. атрымлівалі паўнамоцтва ад рымскіх папаў (апостальскія Н.) ці імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі (цэсарскія Н.) непасрэдна або праз упаўнаважаных на гэта асоб — протанатарыусаў. Паводле падлікаў Е.Ахманскага, у ВКЛ у 1492—1525 было больш за 60 Н., пераважна апостальскіх (звычайна гэта былі духоўныя асобы, гал.чынам плябаны). Н. быў паэт-лацініст М.*Гусоўскі*. За выкананне абавязкаў Н. атрымлівалі пэўную плату. У 16 ст. з развіццём судовай сістэмы юрыд. сведчанне актаў перайшло да *пісараў* каралеўскіх, польных, Трыбунала ВКЛ, земскіх і гродскіх судоў, *рэгентаў* канцылярый. У лацінамоўных дакументах пісары таксама называліся Н.

***Валерый Пазднякоў.***

**Наўгародская рэспубліка**, дзяржава (у 1136—1478) на ПнЗ сучаснай Расіі. Актыўна каланізавала землі на Пн і У да Паўн. Ледавітага акіяна і Урала: Югру, Вятку, Перм і інш. Да Болатаўскага дагавора 1348 намінальна ўключала і тэр. *Пскоўскай рэспублікі*. Органы кіравання — баярская рада, веча, якое выбірала епіскапа (потым архіепіскапа), пасадніка, тысяцкага. Князі запрашаліся па дагаворы з вечам, былі гал.чынам военачальнікамі. Развітая сістэма мясц. самакіравання існавала ў розных гар. цэнтрах. З усіх зямель Русі Н.р. падтрымлівала найб. цесныя гандлёвыя і культ. кантакты з Зах. Еўропай (у т.л. з *Ганзай*, якая трымала ў Ноўгарадзе буйную факторыю) і была самай эканамічна і культурна развітой часткай Русі. Адносна шырока тут была распаўсюджана пісьменнасць, існа-



валі багатыя традыцыі летапісання (гл. *Летапісы наўгародскія*), у канцы 15 ст. пачала пранікаць еўрап. вучонасць, узнікалі навук. гурткі, з'явіліся першыя на Русі ерасі.

Развіццё Н.р. адбывалася ва ўмовах пастаяннай агрэсіі з боку суседзяў: за сваю гісторыю 26 разоў ваявала са Швецыяй і 11 — з Лівонскім ордэнам; у 1-й пал. 13 ст. адбіла каля 15 літоўскіх нападаў, але пасля буйнога паражэння літоўцаў у 1245 усталяваліся параўнаўча мірныя адносіны з ВКЛ. Часта саюзнікам Ноўгарада выступала *Полацкае княства*. З 1330-х г. ВКЛ імкнулася ўсталяваць сюзерэнітэт над Н.р. (дзейнасць кн. *Нарымонта*), што выклікала процідзеянне Маскоўскага вял. княства. Гэта вымушала Н.р. лавіраваць паміж гэтымі 2 буйнымі дзяржавамі і дапамагло працяглы час захоўваць незалежнасць. Служылымі князямі ў Н.р. часта запрашаліся князі з ВКЛ (*Лугвен, Нарымонтавічы* і інш.), якім традыцыйна аддаваліся для «кармлення» Ладага, Арэшак, Карэла, Капор'е. Паралельна існавала «маскоўская сістэма кармленняў», куды запрашаліся служылыя князі з тэрыторый, падкантрольных Маскве. Маскоўскае вял. княства і ВКЛ актыўна ўмешваліся ў барацьбу наўгародскіх «партый» і падтрымлівалі сваіх прыхільнікаў ваеннай сілай (напр., Альгерд у 1345). На працягу свайго княжання вял. князь літоўскі Вітаўт [1392—1430] пры падтрымцы польскага караля Ягайлы імкнуўся ўсталяваць кантроль над Ноўгарадам і Псковам. Яшчэ ў 1389 кн. Лугвен даў васальную прысягу Ягайлу як сюзерэну Н.р., што трымалася ў тайне ад саміх наўгародцаў. Паводле ўмоў *Салінскага дагавора 1398* і *Рацёнжскага дагавора 1404* прадугледжвалася садзейнічанне Лівонскага ордэна ў далучэнні Н.р. да ВКЛ; у 2-й пал. 1410-х г. рымскія папы Іаан XXIII і Марцін V выдалі некалькі булаў, якімі прызнавалі Вітаўта і Ягайлу «генеральнымі вікарыямі» Ноўгарада і Пскова, але тым удалося захаваць самастойнасць. Перакананне, што Ягайла і Вітаўт валодалі Ноўгарадам, было хаця і неабгрунтаваным, але дастаткова распаўсюджаным у ВКЛ і Польшчы на працягу 15—16 ст. і доўгі час служыла падставай для прэтэнзій на «вяртанне» Ноўгарада ў склад ВКЛ. Спрабуючы захапіць Ноўгарад, Вітаўт вёў супраць яго войны (асабліва маштабную ў 1428), якія не мелі рэальных вынікаў. Найб. росквіту эканоміка і культура Н.р. дасягнула пры архіепіскапе Яўфіміі (1429—58), паслядоўным прыхільніку незалежнасці. На працягу 15 ст. Наўгародскае архіепіскапства толькі фармальна падпарадкоўвалася Уладзімірскай (фактычна Маскоўскай) мітраполіі і мела цесныя кантакты з Кіеўскай (фактычна Навагародскай) мітраполіяй. Архіепіскапы, юрысдыкцыя якіх пашыралася і на Пскоў, дэманстратыўна ўхіляліся ад удзелу ў царк. саборах у Маскве; у той жа час прадстаўнікі Ноўгарада ўваходзілі ў дэлегацыю мітрапаліта Грыгорыя Цамблака на *Канстанцкі сабор 1414—18*. Аднак пасля Яжэлбіцкага міру 1456 з Масквой ступень незалежнасці Н.р. ў правядзенні знешняй палітыкі стала значна абмежаваная. Пасля смерці архіепіскапа Іоны ў 1470 кіруючыя колы Н.р. адчулі непазбежнасць страты незалежнасці і схіляліся да збліжэння з ВКЛ. Яны запрасілі да сябе з ВКЛ слуцкага кн. Міхаіла Алелькавіча (гл. ў арт. *Алелькавічы*), збіраліся зацвердзіць свайго новага архіепіскапа ў кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя Балгарына і былі гатовы прызнаць сваім сюзерэнам вял. князя літоўскага Казіміра IV. На гэтыя «лацінскія» сімпатыі Вял. Ноўгарада, а галоўнае на імкненне пралітоўскай партыі захаваць наўгародскую «даўніну», Масква адказала паходам, у выніку якога Ноўгарад быў вымушаны 11.8.1471 падпісаць Карастынскі мір. Канчаткова незалежнасць Н.р. ліквідавана вял. князем маскоўскім Іванам III у 1478.

*Літ.*: Koneczny F. Jerzy Semenowicz Ostrogski w Nowogrodzie W. 1458—59 // Ateneum Wileńskie. 1925. Z. 9; Розов Н.Н. Повесть о новгородском белом клобуке: (идейное содержание, время и место составления) // Уч. зап. ЛГУ. Сер. филол. наук. 1954. Вып. 20; Лихачев Д.С. Новгород Великий: Очерк истории культуры Новгорода XI—XVII вв. М., 1959; Бернадский В.Н. Новгород и Новгородская земля в XV в. М.; Л., 1961; Янин В.Л. Новгородская феодальная вотчина: (Ист.-генеал. исслед.) М., 1981; Его ж. Новгород и Литва: Пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998; Его ж. Новгородские посадники. 2 изд. М., 2003; Krupa K. Książęta litewscy w Nowogrodzie Wielkim do 1430 r. // Kwartalnik historyczny. 1993. № 1; Jego ż. Polityczne związki Giedyminowiczów z Nowogrodem Wielkim w latach 1430—1471 // Przegląd historyczny. 1993. Z. 3; Manusadžianas T. Naugardo politinė raida 1456—1470 m. // Lietuvos istorijos studijos. Vilnius, 1999. T. 7; Накадзава А. Рукописание Магнуша: Исследование и тексты. СПб., 2003; Валеров А.В. Новгород и Псков: Очерки политической истории Северо-Западной Руси XI—XIV веков. СПб., 2004.

***Алесь Белы.***

**неафіты**, прынятая ў Рэчы Паспалітай у 18 ст. назва для асоб, якія перайшлі з іудаізму ў хрысціянства. Паводле заканадаўства ВКЛ атрымлівалі шляхецкія правы.

Упершыню пра магчымасць атрымання шляхецтва пры пераходзе яўрэяў у хрысціянства гаворыць Статут ВКЛ 1588: «А естли бы который жид або жидовка до веры християнское приступили, тогды кождая такая особа и потомство их за шляхтича почитаны быти мають» (раздз. 12, арт. 7). Фармальна гэта супярэчыла правілам набілітацыі, акрэсленым у Статуце. Відаць, аднясенне звестак пра шляхецтва Н. у раздзел пра галоўшчыны і навязкі «людей простых» з'яўляецца прыхаваным абыходам артыкула Статута «О непривлащенье вольностей шляхетских людем простого стану» (раздз. 3, арт. 26). Інш. заканадаўчыя акты пра набілітацыю новапавернутых хрысціян не згадвалі. Традыцыйна ў ВКЛ гэтыя асобы шляхецкай супольнасцю прызнаваліся за шляхту. Колькасць Н. у 16—17 ст. была нязначнаю (не больш за 50 родаў), у 18 ст. адбылося іх некаторае павелічэнне. Выхрышчаныя асобы прэтэндавалі на шляхецкі стан і ў Польскім каралеўстве, дзе не было адпаведнай заканадаўчай базы. Канвакацыйны сойм 1764 прыняў канстытуцыю «Пра неафітаў», паводле якой Н. не лічыліся шляхтай і адносіліся да сялян альбо мяшчан. Тыя, хто валодаў маёнткамі, павінны былі іх прадаць на працягу 2 гадоў, а хто меў урады, пазбаўляліся іх. Канстытуцыя выклікала пратэст з боку шляхты ВКЛ, і на наступным каранацыйным сойме 1764 была прынята канстытуцыя «Пра неафітаў ВКЛ», якая зазначыла, што Н., якія прынялі хрысціянства да канстытуцыі канвакацыйнага сойма 1764, не падлягаюць ёй. Таксама была прынята канстытуцыя, паводле якой прадстаўнікі некаторых родаў Н. атрымалі набі-

літацыйныя прывілеі (відаць, прывілеі атрымалі і некаторыя Н. Польскага каралеўства). Канчаткова праблема Н. была вырашана на варшаўскім сойме 1768. Было вызначана, што пад дзеянне канстытуцыі «Пра неафітаў ВКЛ» 1764 не падпадаюць Н., якія прынялі хрысціянства да згаданай канстытуцыі. Наадварот, усе літ. Н. ўзводзіліся ў шляхецтва і іх шляхецкія правы пацвярджаліся назаўсёды. Такім чынам, не мела значэнне, атрымалі прадстаўнікі роду набілітацыйны прывілей ці не. Яшчэ раз было пацверджана, што асобы, якія будуць прымаць хрысціянства, падпадаюць пад дзеянне канстытуцыі канвакацыйнага сойма 1764. У Рас. імперыі большасць шляхецкіх родаў неафіцкага паходжання не была прызнана ў дваранстве.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Невель** (Н е в л е, цяпер горад, цэнтр Невельскага р-на Пскоўскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад, цэнтр *Невельскай воласці*, на паўн. беразе воз. Невель. Драўляны Невельскі замак пабудаваны ў сярэдзіне 16 ст. па загаду цара Івана IV. Адыгрываў важную ролю ў ходзе ваенных дзеянняў у час *Інфлянцкай вайны 1558—82*, выконваў на пачатковым яе этапе функцыю рас. фарпоста на мяжы з ВКЛ. У жн. 1562 войска ВКЛ, якое налічвала 1,5 тыс. (паводле інш. звестак 4 тыс.) чал., здзейсніла паход на Н., аднак узяць горад не здолела. У час выправы на Полацк у студз. 1563 праз Н. праходзіла маскоўская армія. У ходзе ваеннай кампаніі 1580 у выніку аблогі Н. узяты войскам Рэчы Паспалітай на чале з полацкім ваяводам М.Дарагастайскім. Пасля заключэння *Ям-Запольскага перамір'я 1582* адышоў да Рас. дзяржавы, пасля *Дэулінскага перамір'я 1618* у складзе Рэчы Паспалітай. У 1623 нададзена магдэбургскае права. У ліст. 1632 узяты рас. войскамі, аднак вернуты Рэчы Паспалітай паводле ўмоў *Палянаўскага перамір'я 1634*. З 1650 прыватнаўладальніцкі горад Радзівілаў. У чэрв. 1654 без бою здаўся рас. войску пад камандаваннем В.П.Шараметева. У 1678 разам з Невельскай воласцю перададзены Рэчы Паспалітай, зноў ва ўласнасці Радзівілаў. У 1678 пацярпеў ад вял. пажару. У 1705 у Н. стаялі рас. войскі на чале з Пятром І. Захавалася больш за 10 падрабязных інвентароў горада і замка 17—18 ст. У 1681 у Н. 367 мяшчанскіх, казацкіх і баярскіх двароў, у 1700 — 394, у 1712 — 270, у 1731 — 403 дымы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Историко-юридические материалы. Вып. 3, 6. Витебск, 1872, 1874; Г е й д е н ш т е й н Р. Записки о Московской войне (1578—1582). СПб., 1889; Б р э ж г о Б.Р. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Т к а ч о ў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Васіль Варонін.***

**Невельская воласць** (у 17—18 ст. таксама староства), адм.-тэр. адзінка ў пагранічнай паласе наўгародскіх і полацка-віцебскіх зямель, у ваколіцах воз. Невель. Мясцовасць упершыню згадваецца ў летапісах пад 1185, калі наўгародцы і смаляне на чале з кн. Давыдам Расціслававічам хадзілі паходам на Полацк. Пасля заключэння міру з палачанамі яны вярнуліся да Емянца, што недалёка ад воз. Невель. З 14 ст. ў складзе ВКЛ. Адміністрацыйна належала да Полацкага намесніцтва (пазней ваяводства). Абласны прывілей Полацкай зямлі забараняў мясцовым ваяводам трымаць асобных суддзяў на Невелі і прадпісваў ім разглядаць усе судовыя спрэчкі ў Полацку. У ходзе *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* і *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* была занята маскоўскімі войскамі, згодна з умовамі перамір'я 1503 замацавана за Масквой. У сярэдзіне 16 ст. пабудаваны г. *Невель*. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* стала арэнай актыўных баявых дзеянняў. У жн. 1562 войска ВКЛ здзейсніла выправу на Невель і разрабавала Н.в. У 1580 войскі Стафана Баторыя ўзялі Невель, аднак паводле *Ям-Запольскага перамір'я 1582* Н.в. вярнулася ў склад Рас. дзяржавы. У выніку заключэння *Дэулінскага перамір'я 1618* замацавана за Рэччу Паспалітай. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* у ліст. 1632 занята рас. войскамі, аднак вернута паводле ўмоў *Палянаўскага перамір'я 1634*. У 1634 К.Радзівіл звярнуўся да сойма з просьбай перадаць яму Н.в. на ленным праве, аднак атрымаў адмову. Тым не менш сойм 1650 надаў Н.в. яго сыну Янушу на спадчынным праве ў якасці ўзнагароды за перамогу ў *Лоеўскай бітве 1649*. У 1648 межавымі суддзямі была праведзена дэлімітацыя 100-мільнага ўчастка граніцы Рэчы Паспалітай (воласці Веліж, Усвят, Невель, Себеж, Красны Гарадок) і Рас. дзяржавы (Вял. Лукі, Завалочча, Апочка, пскоўскія прыгарадкі). У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Н.в. пад царскай уладай. Перададзена Рэчы Паспалітай у 1678, вернута Радзівілам. У канцы 17 ст. прыносіла 21 тыс. злотых прыбытку. У выніку шэрагу шлюбаў прадстаўніц роду Радзівілаў частка радзівілаўскіх зямель, у т.л. Н.в. перайшла да нойбургскіх князёў (Германія) і ўвайшла ў склад *«Нойбургскіх маёнткаў»*, з 1-й пал. 18 ст. зноў у Радзівілаў. У 17—18 ст. складалася з войтаўстваў, Радзівілы кіравалі Н.в. праз намеснікаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) тэрыторыя Н.в. далучана да Рас. імперыі.

*Літ.*: Историко-юридические материалы. Вып. 3, 6. Витебск, 1872, 1874; N a t a n s o n - L e s k i J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Lwów; Warszawa, 1922; Я г о ж. Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930.

***Васіль Варонін.***

**Незабытоўскі** (Н е з а б і т о ў с к і) Багуслаў Фелікс (пасля 1691—21.3. 1739), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Стараста прапойскі, кашталян навагародскі з 1734. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, дзе атрымаў ступень бакалаўра. У канцы 1720—пач. 1730-х г. звязаны з Радзівіламі (магчыма, быў маршалкам двара Г.Ф.*Радзівіла* і прымаў удзел у яго падарожжы ў 1730 у Аўстрыю). Калі Радзівілы пачалі замяняць пасэсараў у *«Нойбургскіх маёнтках»*, то спачатку імкнуўся атрымаць у заставу адабраныя ў іншых уладанні. Потым узначаліў гэтых пасэсараў супраць Радзівілаў. Апагей актыўнасці Н. прыйшоўся на час бескаралеўя 1733—36. У час выбараў у навагародскі каптуровы суд і на перадканвакацыйны соймік 1733 яму ўдалося заручыцца падтрымкай большасці навагародскай шляхты і ваяводы М.Ф.*Радзівіла*. Рашаючае сутыкненне адбылося на перадэлекцыйным сойміку 1733. Вял. ўражанне на шляхту зрабілі звесткі, што радзівілаўскія кліенты выдаткавалі грошы, каб на сойміку быў забіты Н. Праціўнік Н. — М.К.*Радзівіл* Рыбанька ледзь не быў пасечаны раз'юшанай шляхтай. Кан-

флікт паміж Радзівіламі і пасэсарамі «Нойбургскіх маёнткаў» прывёў да падзелу ў шэрагах навагародскай шляхты. Большасць прыняла бок Н. Навагародская шляхта, за выключэннем сапегаўскіх прыхільнікаў, не прыняла ўдзелу ў выбарах Станіслава Ляшчынскага на трон. Яна стала асновай Варшаўскай канфедэрацыі, якая 5.10. 1733 абвясціла каралём Аўгуста III. Вял. гетман ВКЛ М.С.Вішнявецкі прызначыў Н. камандуючым Бел. дывізіі войска ВКЛ, і яго асн. дзейнасць у наступныя 3 гады праходзіла ва ўсх. ваяводствах ВКЛ. Працягваў выступаць супраць замены Радзівіламі пасэсараў «Нойбургскіх маёнткаў». Дапамогу Н. і інш. шляхецкаму лідэру ваўкавыскаму маршалку С.Алендзскаму супраць Радзівілаў аказалі Чартарыйскія, Масальскія, Салагубы і Сапегі. У выніку Радзівілы пры пасярэдніцтве падканцлера ВКЛ М.Чартарыйскага былі вымушаны пайсці на кампраміс. Па веравызнанні Н. быў, відаць, скрытым кальвіністам. Выклікана гэта было як паліт. меркаваннямі (большасць пасэсараў «Нойбургскіх маёнткаў» была кальвіністамі), так і асабістымі поглядамі.

*Літ.*: Lisek A. Litwini na sejmie elekcyjnym w 1733 roku // Z dziejów XVII i XVIII wieku. Katowice, 1997; Я г о ж. Postawa Radziwiłłów w okresie przedostatniego bezkrólewia i w pierwszych miesiącach wojny domowej (1733—1734) // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003; Sliesoriūnas F. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos Valstybė XII—XVIII a, Vilnius, 1997; Мацук А. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага ў 20—пачатку 30-х гадоў XVIII ст. // Вестник Полоцкого государственного университета. Гуманит. науки. 2005. № 1; Я г о ж. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» (1730—1740-я гады) // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 3.

***Андрэй Мацук.***

**Незабытоўскі** (Незабітоўскі) Станіслаў (24.9.1641, мяст. Ятра Навагародскага пав.?—11.11.1717), мемуарыст. Вучыўся ў Навагародскім езуіцкім калегіуме (1649). Потым на службе ў Б.*Радзівіла*, з 1661 пры яго двары ў Караляўцы і двары яго жонкі ў г. Мітава. Быў пасрэднікам паміж князем і каралеўскім дваром у Варшаве, выконваў даручэнні ў яго маёнтках у ВКЛ (Біржы, Коўна, Вільня, Слуцк). Пасля смерці Радзівіла (1669) кіраўнік (з К.К.*Клакоцкім* і В.Сяніцкім) маёнткаў яго дачкі Л.К.*Радзівіл*, жыў у Слуцку, з 1682 генеральны эканом і губернатар Слуцкага і Капыльскага княстваў. Перайшоў з каталіцтва ў кальвінізм. Некалькі разоў выбіраўся дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Каля 1676 атрымаў ганаровы тытул падчашага калішскага. Валодаў маёнткамі Ятра ў Навагародскім пав., Смолеча і Казлоўшчына ў Лідскім пав., Прусы і Грозава ў Слуцкім княстве, Свіслач у Менскім пав. Шмат гадоў вёў падрабязны дзённік, з якога захаваліся запісы за 1682—1700 (копія ў Нац. б-цы ў Варшаве; урыўкі за 1695—1700 апублікаваў А.Сайкоўскі ў 1998). Запісы Н. — каштоўная крыніца па гісторыі ВКЛ, найб. звестак у ім пра Навагародчыну і Случчыну, шляхецкае жыццё і побыт. Збераглося больш за 600 лістоў Н. да розных асоб (захоўваюцца ў Радзівілаўскім архіве ў Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве).

*Тв.*: Dzienniki 1695—1700 / Opracował, przygotował do druku i wstępem opatrzył A.Sajkowski. Poznań, 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нейдорф** (цяпер в. Масціцэ, Mościce, Люблінскае ваяв., Рэспубліка Польшча), вёска ў Берасцейскім пав., на р. Буг. Заснавана ў 2-й пал. 16 ст. нямецкамоўнымі перасяленцамі пераважна з Прускага герцагства. У 1617 тут заснавана лютэранская парафія, збудаваны збор і дом пастара. 1-ы вядомы пастар Ёнас Калюмбус з Саксоніі (1647). У 1648 вёска і збор разбураны ўкр. казакамі. Пасля ў Н. толькі капліца, а грамада належала да збору ў Пясках каля Лібліна, у канцы 17 ст. пад апекай пастараў з Венграва. У 1690—94 графіня Празьмоўская фундавала пад выглядам рамонту ў Н. новую капліцу. У 1709 і 1712 фундатарам быў канцлер ВКЛ К.С.Радзівіл. У 1777—78 з дапамогай К.С.Радзівіла Пане Каханку пабудаваны збор Св. Тройцы. У 18 ст. пад духоўнай апекай пастараў Н. былі лютэранскія грамады Любліна, Пяскоў, Замосця і Камянца-Падольскага (да 1791 пастары мелі тытул «пастар люблінскі і плябан нейдорфскі»). Нейдорфскі збор уваходзіў у юрысдыкцыю кансісторыі лютэранскай царквы ў ВКЛ у Вільні, пастановай лютэранскага сінода ВКЛ у Біржах 1784 уключаны ў акругу Слуцкага лютэранскага збору. Польская мова ў царк. практыцы ў Н. замяніла нямецкую ў 1-й пал. 18 ст., ва ўжытку вядомы «Postilla Chrześcianska» С.*Дамброўскага*, «Kancyonał Pruski» і інш. польскамоўныя лютэранскія выданні. Будынак збору знішчаны ў 1941.



Да арт. **Нейдорф**. Лютэранскі збор. Алтар. Фота пач. 20 ст.

*Літ.*: Schultz E.H. Kronika zboru ewangelicko-luterskiego Nejdorfskiego // Zwiastun Ewangeliczny. 1902; Kneifel E. Die Evangelisch-Augsburgischen Gemeinden in Polen, 1555—1939: Eine Parochialgeschichte in Einzeldarstellungen. Vierkirchen, [1972].

***Мікалай Пачкаеў.***

**Некрашэвіч-Кароткая** Жанна Вацлаваўна (н. 14.4.1972, г. Мінск), беларускі гісторык літаратуры. Канд. філалагічных навук (1999), дацэнт (2005). Скончыла БДУ (1994), дзе з 1995 выкладала. У 2001—03 заг. кафедры класічнай і слав. філалогіі, у 2004 намеснік заг. кафедры раманскіх моў і класічнай філалогіі Еўрапейскага гуманітарнага ун-та. З 2004 выкладае ў БДУ. Даследуе творчасць Ф.У.Радзівіл, лацінамоўную паэзію Беларусі 16—пач. 17 ст.

*Тв.*: Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл. Мн., 2002; Мікалай Гусоўскі і яго паэтычны зборнік у беларускім літаратуразнаўстве // Веснік БДУ. Сер. 4. 2002. № 2; Перакладчыцкія метамарфозы або ад «Carmen de statura, feritate ac venatione bisontis» да «Песні пра зубра» // Studia philologica. Мн., 2002.

Вып. 5; Joannis Visliciensis. Bellum Prutenum = Ян Вісліцкі. Пруская вайна: На лац. і бел. мовах. Мн., 2005; Who is who ў старажытнай літаратуры Беларусі: да праблемы генезісу «онімаў» // Бел. літаратуразнаўства: Навукова-метадычны альманах. Мн., 2005. Вып. 1; «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага ў кантэксце лацінамоўнай кніжнай культуры Беларусі эпохі Рэнесансу // Бел. мова і літаратура. 2005. № 3.

**Нелюбовіч-Тукальскі** Іосіф, гл. *Іосіф IV*.

**Неміровічы**, Няміравічы, дзяржаўныя дзеячы ВКЛ. Родапачынальнік Ян Няміра (?—пасля 1420) упамінаецца ў 1398 як канюшы вял. кн. Вітаўта, у 1412 намеснік полацкі. У час заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* разам з братамі атрымаў герб «Ястрабец». Яго сыны Андрэй і Іван неаднаразова ўпамінаюцца ў складзе Рады ВКЛ у 1431—52. З нашчадкаў Яна Няміры найб. вызначыліся:

Мікалай Янавіч (?—1471), малодшы сын Няміры. Маршалак гаспадарскі, намеснік віцебскі з 1466, смаленскі з 1469, уладальнік Уселюба, Ішкалдзі і Жухавіч у Навагародскім пав., Луніна і Лунінца на Палессі.

Якуб Іванавіч (?—пасля 1489), унук Няміры. Маршалак гаспадарскі ў 1483, намеснік берасцейскі з 1483.

Андрэй Якубавіч (?—1541), сын Якуба Іванавіча. Намеснік мазырскі з 1509, чаркаскі з 1511, ваявода кіеўскі з 1514. Неаднаразова адбіваў напады татар на паўд. землі ВКЛ. Разам з братам Юрыем вызначыўся ў *Клецкай бітве 1506*. У *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1534—37* двойчы (1534, 1535) узначальваў войска, якое займала Гомель і ўчыняла аблогу Старадуба і Чарнігава, у выніку чаго Гомель вернуты ў склад ВКЛ. У 1536 разам з полацкім ваяводам Я.Глябовічам кіраваў аблогай Себежа. Уладальнік Уселюба і Чэрніхава ў Навагародскім пав., у 1528 выстаўляў у войска ВКЛ 43 коннікі.

***Вячаслаў Насевіч.***



Да арт. **Неміровічы**. Пячатка Яна Няміры. 1422.

**Неміроўскі** (Немировский) Яўген Львовіч (н. 24.4.1925, г. Зіноўеўск, цяпер г. Кіравагurad, Украіна), расійскі кнігазнавец. Чл.-кар. Рас. акадэміі прыродазнаўчых навук (1991), замежны чл. АН Рэспублікі Чарнагорыя (1996), д-р гіст. навук. (1972), праф. (1979). Скончыў Маскоўскі завочны паліграфічны ін-т (1950). Працаваў ва Усесаюзным НДІ паліграфічнага машынабудавання (1950—73), заг. сектара гісторыі кнігі і заг. аддзела рэдкіх кніг Дзярж. б-кі СССР імя У.І.Леніна (1974—82), заг. аддзела, гал. навук. супрацоўнік Усесаюзнай кніжнай палаты (1982—93). З 1993 гал. навук. супрацоўнік Рас. дзярж. б-кі. Даследуе гісторыю славянскага кнігадрукавання, тэорыю кнігазнаўства, жыццё і дзейнасць І.Фёдарава, Ф.Скарыны, інш. друкароў Расіі і ВКЛ. Дзярж. прэмія Беларусі 1994 за ўдзел у стварэнні цыкла прац «Скарына і беларуская культура».

*Тв.*: Возникновение книгопечатания в Москве: Иван Федоров. М., 1964; Начало славянского книгопечатания. М., 1971; Начало книгопечатания на Украине: Иван Федоров. М., 1974; Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указ. лит. 1517—1977. М., 1978; Иван Федоров в Белоруссии. М., 1979; Иван Федоров. Ок. 1510—1583. М., 1985; Иоганн Гутенберг. Ок. 1399—1468. М., 1989; Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Мн., 1990; По следам Франциска Скорины. Мн., 1990; Gesamtkatalog der Frühdrucke in kyrillischer Schrift. Bd. 1—5. Baden-Baden, 1996—99; Почеци штампарства в Црној Гори. Цетинье, 1996; Изобретение Иоганна Гутенберга: Из истории книгопечатания. Технические аспекты. М., 2000; Возникновение славянского книгопечатания. М., 2003.

*Літ.*: Е.Л.Немировский: Биобиблиография. М., 1991.

**непахожыя людзі**, гл. *Людзі непахожыя*.

**Несялоўскі** Казімір Ігнат (1676—пасля 1752), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Несялоўскіх*. Смаленскі кашталян з 1738. Шмат разоў выбіраўся паслом на соймы Рэчы Паспалітай, дэпутатам Трыбунала ВКЛ. У маладосці ўдзельнічаў пад камандаваннем каронняга гетмана А.Сяняўскага ў бітвах з татарамі на Украіне. У час *Паўночнай вайны 1700—21* падтрымліваў караля Станіслава Ляшчынскага. Прыняў актыўны ўдзел у *Тарнаградскай канфедэрацыі* (1716), выконваў функцыі пісара сканфедэраванага войска. Потым перайшоў на бок караля Аўгуста II. Адначасова падтрымліваў кантакты з Расіяй. У час бескаралеўя пасля смерці Аўгуста II (1733) выказаўся супраць кандыдатуры на трон Станіслава Ляшчынскага і пастаноў канвакацыйнага сойма аб выбарах паляка і католіка. Стаў маршалкам канфедэрацыі Навагародскага ваяв. Адначасова быў вымушаны падтрымаць на навагародскім сойміку пасэсараў *«Нойбургскіх маёнткаў»* і стаў фактычным удзельнікам іх канфлікту з канюшым ВКЛ М.К.Радзівілам Рыбанькам. Разам з навагародскай шляхтай не прыняў удзелу ў элекцыйным сойміку і выбарах Станіслава Ляшчынскага. Стаў адным з актыўных удзельнікаў абрання каралём Фрыдэрыка Аўгуста (Аўгуста III), удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага ў ВКЛ. Як узнагароду Аўгуст III у 1734 прапанаваў яму ўрад мсціслаўскага ваяводы, але Н. адмовіўся. У 1737 быў паслом у Расію ад Радзівілаў. Надалей быў цесна звязаны з Радзівіламі. Перад смерцю аслеп і таму ў 1752 адмовіўся ад смаленскай кашталяніі. У 1743 выдаў у Пінску кнігу «Публічныя забаўкі» («Otia publica vix domestica»), у 1752 — «Хатнія забаўкі» («Otia domestica»), дзе змясціў свае вершы, эпісталярна-мемуарныя матэрыялы, прамовы, гіст. паведамленні, у т.л. легендарнага характару, дакументы, адозвы. Кніга карысталася папулярнасцю ў сучаснікаў; 2-е выданне выйшла ў Супраслі пад назвай «Хатнія забавы цікаўнага» (1783); з'яўляецца важнай гіст. крыніцай.

*Літ.*: Kantecki K. Stronnictwo saskie w Polsce roku 1733: kilka rysów do charakterystyki ludzi i czasu // Niwa. 1877. R. 6, t. 11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformie Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Lisek A. Litwini na sejmie elekcyjnym w 1733 roku // Z dziejów



XVII i XVIII wieku. Katowice, 1997; Я г о ж. Postawa Radziwiłłów w okresie przedostatniego bezkrólewia i w pierwszych miesiącach wojny domowej (1733—1734) // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003; Sliesoriūnas F. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos Valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997; Palkij H. Sejmy 1736 i 1738 roku. Kraków, 2000.

*Андрэй Мацук.*

**Несялоўскія**, шляхецкі род герба «Кошбак». Паходзілі з Памор'я, з 17 ст. аселі на Украіне, пасля на Беларусі. Найб. вядомыя:

Казімір Ігнат (1676—пасля 1752), гл. *Несялоўскі* К.І.

Юзаф (1728—8.3.1814), пляменнік Казіміра Ігната. Напачатку прыхільнік Чартарыйскіх. Пасол на соймы 1756, 1764 (удзельнічаў у абранні на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага), 1766. Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1762, маршалак Скарбовага трыбунала ВКЛ. Староста цырынскі ў 1756, прэнскі і прапойскі з 1769, падкаморы новагародскі, чашнік ВКЛ у 1765, кашталян новагародскі ў 1765—73 і ваявода з 1773. У 1766—75 і 1793—94 уваходзіў у Скарбовую камісію ВКЛ, у 1775—76 і 1793 — у Вайсковую камісію ВКЛ, у 1788—92 — у Вайсковую камісію абодвух народаў (яе старшыня ў час вайны 1792 з Рас. імперыяй). Чл. Пастаяннай Рады з 1778. Паліт. праціўнік падскарбія А.*Тызенгаўза*. Удзельнік падрыхтоўкі *паўстання 1794*. Віленскім актам паўстання 24.4.1794 прызначаны старшынёй *Найвышэйшай літоўскай рады*. Пасля яе роспуску Найвышэйшая нац. рада прызначыла яго старшынёй скарбовага аддзела *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага*. Арганізаваў эвакуацыю касы і дакументаў у Гародню і Варшаву. У ліст. 1794 схоплены казакамі, адпушчаны пад нагляд. Кацярына II амнісціравала яго і вярнула секвестраваныя маёнткі (Новая Мыш, Варонча і інш.). У Варончы ў яго служыў аканомам (1807—09) А.Чарноцкі (З.Даленга-Хадакоўскі).

Францішак Ксаверы (18. 12.1771, мяст. Ляхавічы—15.9.1845), сын Юзафа. У 1785—88 вучыўся ў Гал. школе ВКЛ у Вільні. З 1788 шэф 6-га рэгімента (палка) пяхоты войска ВКЛ. Удзельнічаў у вайне 1792 з Рас. імперыяй, у бітвах пад Берасцем і Кабылянамі, узнагароджаны крыжом «Virtuti Militari». Удзельнік падрыхтоўкі паўстання 1794. Вызначыўся са сваім палком 7.5.1794 у бітве пад Палянамі (каля Ашмян), у рэйдзе па Курляндыі ў чэрв.—ліп. 1794. У вер. 1794 па загадзе Т.Ваўжэцкага рушыў з Гародні да Варшавы. Трапіў у палон, адмовіўся прысягаць Кацярыне II і выехаў у Германію. У 1796 вярнуўся. У 1798 абвінавачаны ў падрыхтоўцы новага паўстання, знаходзіўся ў зняволенні ў Вільні. Падтрымаў план А.Чартарыйскага пра адбудову Польск. дзяржавы пад суверэнітэтам Расіі. З 1807 у складзе судова-адм. камісіі Віленскага ун-та. У 1812 прызначаны Напалеонам чл. Вайсковага к-та ў Вільні, пазней у званні генерала брыгады інспектар пяхоты арміі ВКЛ, паспалітага рушэння. Адступіў з напалеонаўскімі войскамі за мяжу. У 1814 пасля амністыі вярнуўся на Беларусь, прадаў родавыя маёнткі (Варонча і інш.) і з'ехаў у Польшчу. У 1830 абраны пасламсейма Каралеўства Польскага. У час паўстання 1830—31 намеснік губернатара Варшавы, камандаваў брыгадай пры абароне горада, быў сенатарам-кашталянам. Пасля падаўлення паўстання на некалькі гадоў дэпартаваны ў Волагду.

*Валерый Пазднякоў.*

**Неўдах** Уладзімір Васілевіч (н. 15. 2.1968, г. Мінск), беларускі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1999). Скончыў Бел. дзярж. акадэмію музыкі [1992; магістр мастацтваў (музыказнаўства) 1995], Ун-т музыкі і мастацтваў у г. Грац [Аўстрыя; магістр мастацтваў (арган), магістр мастацтваў (дырыжыраванне і вакал) 2001]. З 2001 старшы навук. супрацоўнік праблемнай навук.-даследчай лабараторыі музыкі; дацэнт кафедры камернага ансамбля («Інтэрпрэтацыя старадаўняй музыкі»), кафедры спец. фартэпіяна (арган) Бел. дзярж. акадэміі музыкі. Гал. арганіст і дырыжор архікафедральнага касцёла Найсвяцейшага Імя Панны Марыі, кіраўнік секцыі касцельнай музыкі Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі. Працы ў галіне арганазнаўства і старадаўняй музыкі. Лаўрэат Міжнар. конкурсу «Магутны Божа» (Магілёў, 1994). Аўтар сцэнарыя кінафільма «Арганы Беларусі» (кінастудыя «Беларусьфільм», 1995).

*Тв.*: Адна старонка мінуўшчыны... // Мастацтва Беларусі. 1991. № 10; Беларуская каталіцкая музыка: Касьцёльныя песьні. Мн., 1992 (прадмова і ўкладанне); «Principia seu Methodus Abbreviata Choralis Cantus»: (З гісторыі каталіцкага сьпеву на Беларусі) // Хрысьціянская думка. 1992. № 1; Арганная культура на Беларусі // Там жа. 1993. № 3; Cantantibus organis: Бел. арганная культура ў кантэксьце эўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу. Мн., 1999.

**Нікалаеў** Мікалай Віктаравіч (21. 2.1955, г. Шчучын Гродзенскай вобл.), беларускі гісторык і грамадскі дзеяч. Д-р філалагічных навук (1997). Жыве ў С.-Пецярбургу. Працаваў у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР, удзельнічаў у раскопках стараж. Навагрудка, Старой Ладагі. З 1978 у Рас. Нац. б-цы — навук. супрацоўнік, заг. аддзела. Даследуе гісторыю культуры Беларусі, бел. мастацтва, гісторыю правасл. царквы ў Беларусі. Пераклаў на бел. мову працу І.І.Грыгаровіча «Беларуская іерархія» (1992). Аўтар манаграфіі «Палата кнігапісная» (1993), прысвечанай пытанням традыцый кніжнай культуры Беларусі, гісторыі стараж. кірылічнай кнігі, богаслужэбных кніг на лац. мове, бел. рукапіснай кнігі. Адзін з заснавальнікаў і чл. прэзідыума Міжнар. асацыяцыі беларусістаў. Адзін са стваральнікаў і член праўлення Бел. грамадска-культ. таварыства ў С.-Пецярбургу.

*Тв.*: Несвижская библиотека князей Радзивиллов // Книга в России XVIII—середины XIX в. Л., 1989; Кірылічнае кнігапісанне ў Вільні ў XV в.—першай палове XVI ст. // Спадчына. 1993. № 3; Экзэмпляры Радзівілаўскай Біблії 1563 г. ў Пецярбургскіх кнігасховішчах // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. Warszawa, 1995; Да пытання аб храналогіі кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага // Kultura książki ziem wschodniego i południowego pogranicza Polski (XVI—XX wiek): Paralele i różnice. Katowice, 2004; Начала книжной культуры Великого княжества Литовского: (Эпоха Гедимина и Ольгерда) // Фёдоровские чтения, 2005. М., 2005.

*Ларыса Языковіч.*

**Ніканаўскі летапіс**, расійскі летапісны звод 16 ст. Назва ад прыналежнасці аднаго са спісаў патрыярху Ніканy. Асн. частка складзена ў канцы 1520-х г. пад кіраўніцтвам мітрапаліта Даніїла. Н.л. — велізарная кампіляцыя, створаная на аснове выкарыстання шматлікіх крыніц: ранейшых лета-

пісных зводаў, мясц. летапісаў, аповесцей, сказанняў, жыцій святых, запісаў нар. эпасу, архіўных дакументаў. Складальнікі Н.л. ў значнай ступені адрэдагавалі гіст. матэрыялы і стварылі канцэпцыю, паводле якой кіруючая роля ў стварэнні Рас. дзяржавы належала маскоўскім князям, якія дзейнічалі ў саюзе з царквой; абгрунтоўвалася права маскоўскіх князёў на землі Кіеўскай Русі. Н.л. пачынаецца з «Аповесці мінулых гадоў». Шмат звестак, асабліва за 13—15 ст., маюць унікальны характар. Сярод іх запісы пра вайну кіеўскіх князёў 9 ст. Аскольда і Дзіра з палачанамі, паходы манголаў і татараў на Літву ў 1282, 1289, 1325, 1408, мор у Полацку ў 1349 і Літве ў 1366, паход вял. князя ВКЛ Альгерда супраць немцаў у 1371, знаходжанне кн. Вітаўта ў немцаў, яго паход на Літву і выданне ім дачкі замуж за вял. князя маскоўскага Васіля І у 1391, мяцеж і голад у ВКЛ у 1407. Шмат звестак Н.л. прысвечана ўзаемадачыненням рус. зямель з ВКЛ. З 2-й пал. 1550-х г. летапіс папоўнены матэрыяламі афіцыйнай гістарыяграфіі. У 1560—70-я г. на падставе Н.л. складзены Ліцавы летапісны звод, дзе прасочваецца тэндэнцыя надаць Н.л. характар афіцыйнага тлумачэння гіст. падзей. Апублікаваны ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 9—13, 1965).

*Літ.*: Клосс Б.М. Никоновский свод и русские летописи XVI—XVII вв. М., 1980; Муравьева Л.Л. Об «избытке» известий Никоновской летописи (конец XIII—начало XV в.) // Древности славян и Руси. М., 1988.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нікжантайціс** (Nikžentaitis) Алвідас (н. 18.10.1961), літоўскі гісторык. Д-р габілітаваны (1999), дацэнт. Выкладаў у Клайпедскім ун-це, дзе ў 1992—93 узначальваў Цэнтр Зах. Літвы і Прусіі, у 1993—98 заг. кафедры гісторыі. З 2000 дырэктар Ін-та гісторыі Літвы. Даследуе адносіны ВКЛ з Нямецкім ордэнам і Германіяй, гісторыю Жамойці, сярэдневяковае літоўскае грамадства, гіст. стэрэатыпы. Аўтар кніг «Гедзімін» («Gediminas», Вільнюс, 1989), «Загадка Пілены» («Pilėnų mįslė», Вільнюс, 1993), «Ад Даўмонта да Гедзіміна: Нарыс дахрысціянскага літоўскага грамадства» («Nuo Daumanto iki Gedimino: Ikikrikščioniškos Lietuvos visuomenės bruožai», Клайпеда, 1996), «Вітаўт і Ягайла: Палякі і літвіны ва ўзаемных стэрэатыпах» («Witold i Jagiełło: Polacy i Litwini we wzajemnej stereotypie», Познань, 2000), «Вобразы Вітаўта і Ягайлы ў літоўскім і польскім грамадстве» («Vytauto ir Jogailos įvaizdis Lietuvos ir Lenkijos visuomenėse», Вільнюс, 2002).

*Тв.*: Легенда XIV в. о мученичестве 14 францисканцев в Вильнюсе и историческая истина // Вспомогательные исторические дисциплины. Л., 1990. Вып. 21; Bohater czy zdrajca? Formowanie się stereotypu Jagiełły na Litwie w okresie XV—XX wieku // Znak. 1992. № 3; Die friedliche Periode in den Beziehungen zwischen dem Deutschen Orden und dem Großfürstentum Litauen (1345—1360) und das Problem der Christianisierung Litauens // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1993. Bd. 41; Bitwa pod Grunwaldem w ocenie społeczeństwa litewskiego XV—XVI stuliecia // Studia Grunwaldzkie. Olsztyn, 1994. T. 3; Changes in the organization and tactics of the Lithuanian army in the 13th, 14th and the first half of the 15th century // Fasciculi archaelogiae historicae, Łódź, 1994. F. 7; Litauisch-preußische Beziehungen im Mittelalter: Der litauische Forschungsstand // Deutschland und Litauen: Bestandaufnahme und Aufgaben historischer Forschung. Lüneburg, 1995; Zur Frage der Fürstenschlicht in der baltischen Gessellschaft des 13. Jahrhunderts // Lübeck style. Novgorod style: Baltic rim central places as arenas for cultural encounters and urbanisation 1100—1400 AD. Riga, 2001.

**Нікіфараўскі летапіс**, помнік беларуска-літоўскага летапісання апошняй чвэрці 15 ст., спіс 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*. Перадае яго тэкст хоць і няпоўна (без пачатку і канца, з пропускам у сярэдзіне), але больш дакладна, чым інш. спісы. Заканчваецца апісаннем падзей у ВКЛ пасля смерці Вітаўта. *«Пахвала Вітаўту»* і *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* з *«Аповесцю пра Падолле»* ў гэтым спісе не зберагліся. Н.л. грунтуецца на скарочаным агульнарус. летапісе, у якім сцісла выкладаецца гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі, ВКЛ (канец 14—1-я трэць 15 ст.). У ім змешчаны кароткія пагадовыя запісы, апавяданні пра значныя гіст. падзеі (паход Батыя на Русь, Неўская бітва 1240 і інш.). Упершыню апублікаваны ў 1898 С.Белакуравым, перавыдадзены М.М.Улашчыкам у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 35, 1980). Зберагаецца ў б-цы Рас. АН у С.-Пецярбургу.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**нобль** (англ. noble высакародны ), назва альбо частка складанай назвы аднатыпных пераважна залатых манет Англіі, Шатландыі, Галандыі і Зеландыі 14—16 ст. (напр., rose noble, lion noble, george noble). Упершыню Н. выбіты ў 1344 у Англіі з лігатурнай масай 8,86 г пробы 970 праміле і меў курс 6 шылінгаў 8 пенсаў ($^1/_3$ фунта). Пазней з'явіліся Н. з меншай масай. У 1465 Н. заменены рыалам (розеноблем, назва ад выявы ружы на борце карабля) з лігатурнай масай 7,76 г, які прыраўноўваўся да 10 шылінгаў ($^1/_2$ фунта). Падвойны розенобль 1489 атрымаў назву саверэн (1 фунт). Характэрная выява на аверсе большасці Н. — карабель з каралём на ім з мячом у правай руцэ і геральдычным шчытом у левай (адсюль назва *карабельнік* у бел. і рус. пісьмовых крыніцах). Па сярэднееўрапейскім рацыо (суадносінах кошту золата і серабра) розенобль мог прыраўноўвацца ў 2-й пал. 16 ст. да 1 рубля літ. грошамі стапы 1558—59.

***Іван Сінчук.***

**Новагародак** (цяпер Навагрудак, горад, цэнтр Навагрудскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Новагародскага павета* і *Новагародскага ваяводства*. Паводле археал. даследаванняў, паселішча на тэр. сучаснага горада ўзнікла ў канцы 10 ст. Першае верагоднае ўпамінанне Н. ў пісьмовых крыніцах адносіцца да 1044 і звязана з паходам кн. Яраслава Мудрага на Літву. Летапісныя варыянты назвы горада — «Новогород», «Новгородок», «Новогородок», «Новый Городок» і інш. Традыцыйнае бел. вымаўленне — Наваградак — пад уплывам польскага варыянта Nowogródek трансфармавалася ў сучасную назву. У 13—14 ст. Н. — цэнтр удзельнага *Новагародскага княства.* З сярэдзіны 1240-х г. па запрашэнні мясцовых баяр тут стаў княжыць *Міндоўг,* што дало пачатак утварэнню ВКЛ з цэнтрам ў Н. Гэта выклікала вайну з Галіцка-Валынскім княствам, якое ў кааліцыі з Лівонскім ордэнам у 1249—52 здзейсніла шэраг паходаў на Н., што прымусіла Міндоўга пайсці на прымірэнне з Лівонскім ордэнам. У 1253 Міндоўг каранаваўся ў Н. як кароль літоўскі, на падставе чаго шэраг гісторыкаў лічыць з гэтага часу Н. сталіцай ВКЛ. Сын Міндоўга *Войшалк* заключыў ад імя бацькі мір з Га-



Герб **Навагародка**. 1595.



**Навагародак**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

**НАВАГАРОДАК паводле плана канца XVIII ст.**

0 50 100 сажняў

Лічбамі на плане пазначаны: 1–закінутая базыльянская царква; 2–мураваныя вежы замка; 3–земская канцылярыя; 4–базыльянскі манастыр і Барысаглебская царква; 5–Уваскрасенская царква; 6–Мікалаеўская царква; 7–фарны касцёл; 8–былы езуіцкі касцёл; 9–аптэка; 10–дамініканскі касцёл і кляштар; 11–францысканскі касцёл і кляштар; 12–ратуша; 13–крамы; 14–дом Радзівілаў; 15–кавярня; 16–купецкі дом; 17–шляхецкія дамы; 18–сінагога; 19–мячэць; 20–корчмы; 21–хрысціянскія могілкі; 22–яўрэйскія могілкі; 23–гарадская цагельня.

ліцка-Валынскім княствам і перадаў Н. кн. Раману Данілавічу. Пасля разрыву міру ў 1258 Войшалк стаў князем Н. У барацьбе супраць Галіцка-Валынскага княства і літ. князёў ён аб'яднаў вакол Н. Пінскую зямлю, Нальшчаны і Дзяволтву, што склала аснову тэрыторыі ВКЛ. Станаўленне дзяржавы праходзіла ў барацьбе за Н. з кааліцыяй Лівонскага ордэна, Галіцка-Валынскага княства, жамойцкіх і літ. князёў. На Н. неаднаразова нападалі татары і іх саюзнікі — галіцка-валынскія князі ў 1250-я г., 1274, 1276, 1277, а потым крыжакі ў 1314, 1321, 1341, 1390, 1394. Як цэнтрам удзельнага княства Н. валодаў з 1329 *Карыят,* пасля 1358 яго сын Фёдар, з 1386 — *Карыбут*. З 1392 Н. — адзін з цэнтраў велікакняжацкага дамена. У канцы 14—пач. 15 ст. *Вітаўт* пасяліў у Н. і яго наваколлі татараў, у 1428 ён запісаў горад разам з навакольнымі вёскамі ў пажыццёвае ўладанне сваей жонцы Ульяне. У 1422 у Н. ў заснаваным Вітаўтам фарным касцёле адбыўся шлюб караля Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай. У канцы 15 ст. ў Н. 3—4 тыс. жыхароў. У 1316 Н. стаў цэнтрам самастойнай Літоўскай мітраполіі. У 1568 у Н. 10 цэркваў. У 16 ст. Н. — адзін з цэнтраў Рэфармацыі Беларусі. У студз. 1507 утворана Навагародскае ваяв. 26.7.1511 Н. атрымаў магдэбургскае права, якое пацверджана ў 1562, 1595 і 1776. Прывілеем 1595 зацверджаны гар. герб: у чырвоным полі выява архангела Міхаіла, які трымае ў правай руцэ меч, а у левай — вагі. У 1597 кароль Жыгімонт III даў мяшчанам Н. прывілей на 2 кірмашы ў год на працягу 2 тыдняў на святы Трох Каралёў і Тройцы. З 1581 па 1775 у горадзе адбываліся пасяджэнні Трыбунала

ВКЛ. У сярэдзіне 16 ст. ў Н. 2—5 тыс. жыхароў. У 16—18 ст. горад моцна пацярпеў ад ваенных дзеянняў: у 1506 і 1507 ад крымскіх татараў, у 1518 і 1534 у выніку войнаў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ, у 1648 у ходзе антыфеад. вайны 1648—51, у вер. 1655 узяты рас. войскам кн. А.М.Трубяцкога ў вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1661 у сувязі з ваен. спусташэннямі горад вызвалены ад падаткаў на 4 гады. У 1706 у Паўн. вайну 1700—21 акупіраваны шведскім войскам. У 16—18 ст. Н. некалькі разоў цярпеў ад пажараў (1578, 1599, 1613, 1652, 1751) і эпідэмій (1590, 1592, 1603, 1708). Ваен. падзеі і прыродныя катаклізмы прывялі горад да паліт. і эканам. занепаду. У канцы 18 ст. ў Н. каля 3 тыс. жыхароў, 3 уніяцкія царквы, 5 касцёлаў, 6 манастыроў, сінагога, мячэць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Бурдзейка А.В. Нарыс сацыяльна-эканомічнага жыцця места Навградку ў XVI сталецьці // Гістарычна-археолёгічны зборнік. Мн., 1927. №1; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990; Гайба М.П. Навагрудак: Гіст. нарыс. Навагрудак, 1992; Яго ж. Навагрудак: Гады і падзеі. Навагрудак, 1995; Яго ж. Могілкі і пахаванні ў Навагрудку. Мн., 2000.

***Мікалай Гайба.***

**Новагародскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ. Утворана ў студз. 1507 шляхам вылучэння з Віленскага ваяв. Цэнтр — г. *Новагародак*. Пасля адм. рэформы 1565—66 складалася з Ваўкавыскага, Новагародскага і Слонімскага пав. (раней тэрыторыя Н.в. фактычна адпавядала тэрыторыі Новагародскага пав.). Пл. 36 920 км², насельніцтва ў сярэдзіне 17 ст. 375 тыс. чал. (62 400 дымоў). У Н.в. 9 гарадоў і мястэчак мелі магдэбургскае права: Ваўкавыск, Капыль, Любча, Мір, Новагародак, Нясвіж, Ружаны, Слонім, Слуцк. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) усх. частка Новагародскага пав. ўвайшла ў склад Рас. імперыі; у Н.в. створаны Сталавіцкі пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) рэшта Н.в. далучана да Рас. імперыі.

Ваяводы новагародскія: І.Глінскі (1507—08), А.Гаштольд (1509), Я.Забярэзінскі (1509—30), С.Гаштольд (1530—42), Р.Р.Осцік (1542—44), А.І.Хадкевіч (1544—49), А.І.Палубінскі (1551), І.Гарнастай (1551—58), П.І.Сапега (1558—79), М.М.Радзівіл (1579—89), Ф.С.Тышкевіч (1590—1618), М.К.Сапега (1618—38), А.Слушка (1638—42), Ж.К.Радзівіл (1642), Т.Сапега (1643—46), Ю.А.Храптовіч (1646—50), К.Халецкі (1650—53), П.К.Вяжэвіч (1653—58), К.Валадковіч (1658—70), Я.Керсноўскі (1670), Дз.С.Палубінскі (1670—87), Б.А.Уняхоўскі (1689), С.Тызенгаўз (1689—1709), Я.М.Радзівіл (1709—29), М.Ф.Радзівіл (1729—46), Е.Радзівіл (1746—54), Ю.А.Ябланоўскі (1755—73), Ю.Несялоўскі (1773—95).

Кашталяны новагародскія: Р.Г.Валовіч (1566—86), А.І.Палубінскі (1586—1607), С.Валовіч (1608—26), В.В.Копаць (1626—36), Я.Рудаміна-Дусяцкі (1636—46), Б.В.Статкевіч-Заверскі (1646—51), С.Статкевіч (1652—60), М.У.Юдзіцкі (1660—70), С.Зяновіч (1671—72), К.М.Есьман (1672—77), М.У.Пшаздзецкі (1677—83), А.Война-Ясянецкі (1684—98), С.Я.Александровіч (1698—1700), Т.Г.Абуховіч (1700—07), А.Навасельскі (1709—26), А.Аскерка (1726—34), Б.Незабытоўскі (1734—39), Я.Рдултоўскі (1739—44), Д.Шышка (1744—56), Я.Храптовіч (1756—65), Ю.Несялоўскі (1765—73), Р.Ю.Яленскі (1773—80), Г.Яленскі (1780—95).

***Мікалай Гайба.***

**Новагародскае княства**, удзельнае княства ў Панямонні ў 13—14 ст. Цэнтр — г. *Новагародак*. Новагародскі кн. *Ізяслаў* упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1237 (1236?), калі галіцка-валынскі кн. *Даніла Раманавіч* «наведе... Литву Миндога Изяслава Новогородьского» на кн. Конрада Мазавецкага. На падставе гэтага запісу лічыцца, што побач з *Міндоўгам* у барацьбе з мазавецкім князем удзельнічаў і Ізяслаў, які быў у саюзных або васальных адносінах з Данілам Раманавічам. Пазней Н.к. ўваходзіла ў склад уладанняў Міндоўга, *Рамана Данілавіча, Войшалка*, у 1-й пал. 14 ст. — удзел сына Гедзіміна *Карыята* (разам са Слонімам і Мсцібавам). Нейкі ўдзел меў у Н.к. сын Карыята Фёдар. У канцы 14 ст. вял. кн. Вітаўт зняволіў, а пасля выгнаў Фёдара з ВКЛ. З таго часу Н.к. канчаткова перайшло да велікакняжацкага дамена, у Новагародку сядзелі намеснікі вял. князёў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Новагародская Барысаглебская царква.** Узведзена ў г. *Новагародак* у 1-й пал. 12 ст. з вапняковых блокаў з нязначнымі ўстаўкамі плінфы як крыжовакупальны храм. Яе інтэр'ер упрыгожвалі фрэскі і маёлікавая падлога. У акустычных мэтах былі выкарыстаны галаснікі. У 14 ст. пры храме існаваў мужчынскі правасл. манастыр, з пач. 17 ст. — базыльянскі (гл. *Новагародскі Барысаглебскі манастыр*), з 1839 правасл. царква. У 1-й чвэрці 16 ст. храм быў цалкам перабудаваны ў тэхніцы гатычнай муроўкі па заказе віленскага кашталяна, гетмана ВКЛ К.Астрожскага. У 1624—32 царква перабудавана па фундацыі А.Храптовіча, гатычны гал. фасад заменены барочным. У 2-й пал. 19 ст. істотна перабудавана ў псеўдарускім стылі.

Складаецца з асн. аб'ёму і ніжэйшай за яго вял. алтарнай апсіды, якія былі накрыты высокімі клінаватымі дахамі. Інтэр'ер падзелены 4 слупамі і сістэмай падпружных арак на роўнавысокія травеі, перакрытыя зорчатымі і сеткавымі скляпеннямі. Малітоўная зала і апсіда прасторава злучаны паміж сабой 3 стральчатымі аркамі. Падлога была набрана з квадратных і фігурных непаліваных і з зялёнай палівай плітак. Фасады аздоблены лапаткамі, аб'яднанымі ў верхняй частцы карункамі стральчатых арачак. Сцены асн. аб'ёму і вуглы апсіды ўмацаваны шматграннымі контрфорсамі. Помнік захаваўся да нашага часу са шматлікімі стылявымі напластаваннямі.

*Літ.*: Довгяло Д.И. Памятка о Борисо-Глебской церкви в г. Новогрудке Минской губернии. Новогрудок, 1915; Каргер М.К. Раскопки церкви Бориса и Глеба в Новогрудке // Краткие сообщения Ин-та археологии. М., 1977. Вып. 150; Кушнярэвіч А.М. Барысаглебская царква ў Навагрудку // Мастацтва Беларусі. 1988. № 7; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001. С. 33.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Новагародская дамініканская школа**, павятовая сярэдняя школа пры *Новагародскім кляштары дамініканцаў* у 1794—1831. Мела 6 класаў, працавалі 6—7 выкладчыкаў (прафесараў) на чале з прэфектам. Мела 2 ступені. Ніжнюю ступень утваралі 2 першыя класы, у якіх вывучалі польскую і лацінскую мовы, арыфметыку і геаграфію. У наступных 4 класах выкладаліся

гісторыя, фізіка, матэматыка, літаратура, права, этыка, французская, нямецкая і рус. мовы. У кожным класе з найб. здольных вучняў выбіралі т.зв. аўдытараў, якія дапамагалі выкладчыкам у навучанні і падтрыманні дысцыпліны. Штоквартальна праводзіліся экзамены. Большасць вучняў жыла ў кляштарнай бурсе (інтэрнаце). Выпускнікі школы мелі права паступаць у Віленскі універсітэт. У 1807—15 у школе вучыліся паэты А.Міцкевіч і Я.Чачот. Зачынена пасля пажару 1831. У 1834 на яе базе створана пяцікласная павятовая школа з рус. мовай выкладання.

***Мікалай Гайба.***

**Новагародская ратуша.** Існавала ў 17—19 ст. у *Новагародку*. Упершыню ўпамінаецца ў соймавай канстытуцыі 1652. Мяркуюць, што ў 1664 пад ратушу прыстасаваны будынак камяніцы на рынку. У час пажару 1751 ён пашкоджаны, пазней аднаўлены: на рагу будынка прыбудавана 2-ярусная вежа, завершаная купалам і флюгерам з выявай архангела Міхаіла. У 1818 Н.р. значна рэканструявана: зменены агульная планіроўка, аконныя і дзвярныя праёмы, на ўзроўні 2-га паверха гал. фасада, арыентаванага на плошчу, зроблена галерэя (апіралася на 4 калоны). Ратуша набыла рысы класіцызму: рустоўка на вуглах будынка і на гранях вежы 1-га паверха, нішы на 2-м паверсе. У такім выглядзе яна існавала да пажару 1862, калі была моцна пашкоджана і больш не аднаўлялася. Каля 1900 на месцы Н.р. ўзведзены будынак магістрата (відаць, былі выкарыстаны фундаменты і часткі сцен ратушы), у Вял. Айчынную вайну разбураны.

**Новагародская Успенская царква** (З а м к а в а я). Існавала ў г. *Новагародак* на тэр. дзядзінца (замка) у 14—19 ст. Падмурак, рэшткі сцен і апорных слупоў выяўлены ў час раскопак 1924. У 1970-я г. дэталёва вывучана ленінградскай даследчыцай М.У.Малеўскай. Храм быў узведзены ў 1-й пал. 14 ст. Першапачаткова бясслупавы. З усх. боку царква мела невял. закругленую апсіду, з зах. — прытвор. Рэшткі сцен усх. часткі храма пабудаваны ў вендскай, зах. сцяна і прытвор — у гатычнай тэхніцы муроўкі. Вуглы прытвора і выступы, якія адпавядаюць паўн. і паўд. фасадам царквы, змураваны з блокаў жоўта-зялёнага туфу. Па перыметры храма ў сцены былі закладзены драўляныя брусы. У сярэдзіне—2-й пал. 14 ст. праведзена рэканструкцыя: з цэглы ўзведзены 4 крыжападобныя ў плане слупы, набрана новая цагляная падлога, пад якой былі 2 сутарэнні. У такім выглядзе помнік уяўляў сабой сінтэз стараж.-рус., раманскага і гатычнага дойлідства. У 2-й пал. 17 ст. царква перабудавана пад касцёл у стылі барока. Асн. аб'ём падоўжаны на 3, паявлічана апсіда. Да паўд. фасада прыбудавана вежа складанай канфігурацыі, фасады дэкарыраваны фігурнымі, атынкаванымі карнізамі, цягамі, нішамі і інш. Да 1775 у будынку касцёла адбываліся сесіі Трыбунала ВКЛ. Храм існаваў да 1850. У ім захоўваўся *Новагародскі абраз Маці Божай* (замкавы).

*Літ.*: М а л е в с к а я М.В., Ш о л о х о в а Е.Д. Раскопки церковных построек на детинце Новогрудка // Археологические открытия 1973 года. М., 1974; І х ж а. Раскопки культовых сооружений Новогрудского детинца XIV—XVII вв. // Археологические открытия 1974 года. М., 1975; М а л е в с к а я М.В. Монументальные сооружения Новогрудского детинца XIV—XVI вв. // Краткие сообщения Ин-та археологии. М., 1973. Вып. 135; Я е ж. Архитектурный комплекс Новогрудского детинца XIII—XIV вв. // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Новагародскі абраз Маці Божай** (езуіцкі). Знаходзіўся ў касцёле *Новагародскага езуіцкага калегіума*. Абраз прывёз у Вільню ў 1615 жаўнер, які здабыў яго ў Вязьме ў час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. Жаўнер падараваў абраз віленскаму мешчаніну кавалю П.Багуцкаму, ад яго дзяцей абраз набыў М.Каламыйскі і падараваў К.Працлаўскаму, кананіку Віленскай катэдры. У доме кананіка ў 1652—62 абраз праславіўся 54 цудамі. 17.12. 1662 абраз урачыста перанесены ў касцёл езуітаў у Новагародку, дзе за 20 гадоў адзначаны яшчэ 20 цудаў. У 1673 камісія на чале з віленскім суфраганам М.Служскім прызнала абраз цудатворным. Тады ж у Віленскай друкарні езуітаў надрукавана гісторыя абраза з гравюрай Вілонца. У 1684 выйшла аналагічнае выданне Дрэўса на лацінскай мове (тут змешчана гравюра з выявай абраза Л.*Тарасевіча*), а таксама яго ж паказальнік месцаў пілігрымак да 14 цудатворных абразоў, у т.л. да Новагародскага. Абраз быў уведзены Г.Шэрэрам у кампендыум цудатворных абразоў Панны Марыі ў Еўропе (1710). На абразе Маці Божая прадстаўлена стоячай, выява пабедраная, левая рука на ўзроўні пояса, правай трымае дзіця. Мафорый у складках накрывае галаву, захутвае фігуру накшталт плашча; галава ў кароне схілена да дзіцяці, позірк скіраваны на гледача. Дзіця ў доўгім хітоне ў кветкі павернута ў 3 чвэрці да Маці, абедзве рукі працягнуты перад сабою, пальцы ў благаслаўляльна-ўказальным жэсце. На галаве карона (магчыма, на гравюры Тарасевіча паказаны накладныя металічныя кароны.) У агульных рысах кампазіцыя нагадвае старажытны візантыйскі звод накшталт Холмскага абраза. У верхніх вуглах гравюры гербы Б.Уняхоўскага і кагосьці з новагародскіх Дунінаў. Цяпер у фарным касцёле Перамянення Панскага знаходзіцца абраз на палатне, аздоблены металічнай шатай, па іканаграфіі вельмі падобны на гравюру Тарасевіча. Ён быў рэстаўрыраваны і даследаваны ў Варшаве, М.Каламайская лічыць яго копіяй 2-й пал. 18 ст. арыгінала, які, відаць, загінуў пры пажары касцёла ў 1751.



**Новагародскі абраз Маці Божай** (езуіцкі). Гравюра з кнігі І.Дрэўса «Спосаб паломніцтва». Вільня. 1684.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Новагародскі абраз Маці Божай** (замкавы). Знаходзіўся ў *Новагародскай Успенскай царкве* ў замку. Упершыню згадваецца як цудатворны ў кні-

зе уніяцкага холмскага епіскапа Якуба Сушы «Уваскрэслы фенікс...» (1646). У інвентары царквы 1729 адзначана, што абраз мае сярэбраную шату з каронамі, шматлікія воты; знаходзіўся ён, відаць, у ніжнім радзе іканастаса. Візіта уніяцкіх цэркваў 1754 сведчыць: «Капліца ў замку з цудатворным абразом Маці Божай. Здаўна парафіяльная, але адабралі базыльяне». Візіта уніяцкіх парафій 1798 ужо не ўзгадвае капліцу (царкву), ці таму, што яна трапіла ў апеку базыльян, ці наогул ужо не існавала. У канцы 18 ст. «Маці Божая Замкавая» была самым шанаваным абразом на Навагародчыне. Дасведчаныя каталіцкія аўтары, у т.л. С.Заленскі і А.Марыянскі, лічылі, што менавіта перад гэтым абразом малілася маці А.Міцкевіча аб уратаванні дзіцяці. Звесткі 19 ст. пра абраз супярэчлівыя. Архімандрыт Мікалай не ўпамінае яго сярод цудатворных абразоў Мінскай епархіі (1864). «Апісанне цэркваў і прыходаў Мінскай епархіі» (1879) называе Замкавым абраз з датай 1654, які ў той час знаходзіўся ў Барысаглебскай царкве. Там жа прыведзена паданне, што абраз калісьці знаходзіўся ў замку, і замкавае войска брала яго з сабою ў паходы. Пасля пажару ў замку, пры якім згарэла і капліца, непашкоджаны абраз нібыта перанеслі ў Барысаглебскую царкву. Цудатворны абраз з Барысаглебскай царквы быў вывезены свяшчэннікам у час эвакуацыі 1915 у в. Дабрадзееўка Чарнігаўскай губ. Далейшы лёс яго невядомы.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Новагародскі Барысаглебскі манастыр**, уніяцкі мужчынскі манастыр у г. *Новагародак* у 17—19 ст. Заснаваны ў 1-й чвэрці 17 ст. пры мітрапаліцкай саборнай *Новагародскай Барысаглебскай царкве* протаархімандрытам ордэна базыльян, пазней мітрапалітам І.*Руцкім*, які на ўтрыманне манахаў прызначыў частку прыбыткаў *Лаўрышаўскага манастыра*. Паводле меркаванняў некат. гісторыкаў, манастыр пры Барысаглебскім саборы існаваў з 14 ст. як праваслаўны. На 1-й і 2-й кангрэгацыях базыльян (1617, 1623) Н.Б.м. названы другім пасля Віленскага. У сярэдзіне 17 ст. манастыр ахвяраваў на ўтрыманне рымскай рэзідэнцыі базыльян 24 залатыя фларэны. Пэўны час пры манастыры дзейнічала школа для свецкіх асоб, у 1666 манахі пратэставалі супраць канкурэнцыі езуітаў у галіне адукацыі. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 манастыр збяднеў і заняпаў, у 1671 былі толькі 2 манахі. Скасаваны разам з Лаўрышаўскім манастыром пры ліквідацыі уніяцкай царквы ў 1839. Захавалася Барысаглебская царква.

*Аляксандр Ярашэвіч.*



**Новагародскі Барысаглебскі манастыр.** Малюнак Н.Орды.

**Новагародскі езуіцкі калегіум**, установа ордэна езуітаў у г. *Новагародак*. У 1626—31 місія, 1631—1714 рэзідэнцыя, у 1714—73 калегіум. Сродкі на стварэнне місіі ахвяравалі Е.Галаўня і Я.Машынскі, першы кіраўнік місіі Я.Разнавольскі. У 17—1-й пал. 18 ст. драўляныя збудаванні калегіума шмат разоў знішчаліся пажарамі. Каля 1754 пабудаваны мураваны 3-нефавы касцёл, у 1752 — навучальны корпус. Калегіума падпарадкоўваліся місіі ў Бурдыкаве, Варончы, Востраве, Гарадзішчы, Любчы, Мажэйках, Моладаве, Пачапаве, Слоніме, Шчорсах. У 1649 у рэзідэнцыі адкрыты класы граматыкі, у 1653 — паэтыкі і рыторыкі. Пасля пераўтварэння рэзідэнцыі ў калегіум навучальная праграма адпавядала гэтаму тыпу навучальных устаноў, выкладаліся таксама матэматыка, геаграфія, гісторыя, французская мова. Каля 1680 адкрыта музычная бурса, у 1705 — канвікт (пансіён), у 1721 — аптэка. Была бібліятэка. У 18 ст. колькасць навучэнцаў складала ад 13 да 51 чал. У розны час рэзідэнцыі і калегіуму належала некалькі навакольных маёнткаў. У 1773 калегіум закрыты, у 1815 касцёл пераабсталяваны пад ратушу.

*Літ.*: Paszenda J. Kościół i kolegium jezuitów w Nowogródku // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7, z. 4 (28).

**Новагародскі замак**, умацаваны цэнтр г. *Навагародак* у 11—17 ст. У сярэдзіне—2-й пал. 11 ст. на Замкавай гары ў Новагародку быў узведзены земляны вал з драўлянымі сценамі па версе, гэтае паселішча ператварылася ў дзядзінец. Пад 1274 летапіс паведамляе пра існаванне ў Новагародку 2 умацаваных частак — дзядзінца і вакольнага горада. Апошні знаходзіўся на суседнім зах. узвышшы (тэр. Малога замка), узнік у пач. 12 ст. Умацаванні дзядзінца ў 2-й пал. 11—канцы 14 ст. не менш як 5 разоў удасканальваліся, павялічвалася вышыня і шырыня вала. У канцы 14 ст. перад пагрозай крыжацкага нашэсця паводле загаду вял. князя літоўскага Вітаўта на Замкавай гары пачалося будаўніцтва мураваных вежаў і абарончых сцен. Крыжакі двойчы ў 1391 і 1394 спрабавалі спыніць будаўнічыя работы. Скончаны яны былі ў пач. 15 ст. У канцы 15—пач. 16 ст. перад пагрозай набегаў крымскіх татараў замак быў грунтоўна адрамантаваны і дадаткова ўмацаваны. На паўн.-зах. ускраіне Замкавай гары была пабудавана самая высокая вежа Дазорца. У канчатковым выглядзе замак у 16 ст. меў 7 вежаў — Шчытавую (Шчытоўку), Касцельную, Малую браму, Калодзежную, Пасадскую, Дазорцу і Мескую, якія былі злучаны паміж сабой мураванымі сценамі таўшчынёй 2 м і вышынёй да 8 м. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* сцены і вежы Калодзежная, Пасадская, Меская і Малая брама былі моцна разбураны.



Даваршылі руйнаванне замкавых муроў у 1706 шведы.

У 20 ст. раскопкамі замка займаліся С.Лорэнц, Ю.Рэмер, Р.Гюртлер, П.Рапапорт, Ф.Гурэвіч, М.Малеўская, М.Ткачоў, М.Нікалаеў, Т.Бубенька. У сувязі з кансервацыяй замкавых муроў у 1995, 2000—02 праводзіліся новыя архітэктурна-археал. даследаванні замка. Устаноўлена, што мураваны замак пачалі будаваць у канцы 14 ст. Вежы Шчытавая, Касцельная і Малая брама ўзводзіліся аднachасна. Яны маюць каменныя падмуркі 3—8 м глыбінёй. Не пацвердзілася думка Ткачова, што на месцы Шчытавой вежы раней стаяла мураваная вежа-данжон, якая была галоўнай у сістэме дрэва-земляных умацаванняў. Усе вежы ўзведзены з буту, звонку і ўнутры яны абкладаліся брусковай цэглай.

5-ярусная Шчытавая вежа была галоўнай у сістэме абароны замка. Яна вымуравана на паўн. схіле Замкавай гары і мае магутны падмурак, унутры амаль квадратная (7,6 x 7,2 м). На яе верхніх ярусах былі жылыя пакоі велікакняжацкага намесніка. Яны ацяпляліся глінянымі печамі, абкладзенымі гаршкападобнай кафляй. Вежа мела шатровы дах. У канцы 14—пач. 15 ст. ён быў зроблены з паўцыркульнай керамічнай дахоўкі. Падлога 1-га яруса вежы — пакрыццё з вапнавай рошчыны светла-шэрага колеру з дамешкам значнай колькасці дробных каменьчыкаў і кавалкаў цэглы (таўшчыня 12—35 см). 1-ы ярус меў гатычнае крыжовае скляпенне. Яго пяткі абапіраліся на цагляныя слупы памерам 1 x 1 м, рэшткі якіх выяўлены ў кутах вежы каля паўн. сцяны. Слупы абапіраліся на мураваную сцяну-падушку вышынёй 4 м, спецыяльна змураваную каля паўн. сцяны вежы. Рэбры скляпення былі выкладзены нервюрнай крыжовай цэглай, пакрытай звонку тынкам светла-шэрага колеру. У паўд.-ўсх. куце Шчытоўкі выяўлена памяшканне прамавугольнай формы. Частка яго аб'ёму хаваецца ў тоўшчы ўсх. сцяны вежы, а другая выдаецца на 3,8 м унутр вежы. Унутры памяшканне квадратнае (3 x 3 м). Яго гатычнае скляпенне ў тоўшчы ўсх. сцяны мела кілепадобную форму. Вышыня аркі скляпення з замком уверсе складае 1м, шырыня 1,5 м. У памяшканні маглі ўтрымліваць вязняў, выкарыстоўваць яго як арсенал ці пограб для захоўвання харчовых прыпасаў. З-за наяўнасці гэтага памяшкання ўваходны арачны праём вежы з боку двара быў ссунуты бліжэй да паўд.-зах. вугла. Шырыня праёма была больш за 2 м. З паўн. боку вежа мела ўязную браму, якая вяла на тэр. замка. Яна закрывалася пад'ёмным мостам даўжынёй каля 5 м пры шырыні 3—3,2 м. Таўшчыня яго насцілу з бярвён 25—30 см. Ён хаваўся ў спец. нішу ў паўн. сцяне вежы. На ўзроўні 2-га яруса ўнутры вежы быў пад'ёмны механізм моста. Ён складаўся з калаўрота, ланцуга і супрацьвагаў, якія мацаваліся да ніжняга краю насцілу і знаходзіліся ў зазоры паміж паўн. падмуркам вежы і сцяной-падушкай каля яе. На паўн. схіле гары мост апускаўся на цагляна-каменную канструкцыю — перадбрам'е. Яно ў плане мела П-падобную форму, памеры 10,5 x 5 м. Перадбрам'е абапіраецца на бутавую падушку таўшчынёй да 1 м, якая зверху заліта вапнавай рошчынай. Паўн. сцяна перадбрам'я разам з адкінутым мостам узвышалася на 3—3,5 м над паверхняй схілу Замкавай гары. Трапіць у замак праз Шчытавую вежу можна было толькі па драўляным мосце на палях, які, відаць, быў пабудаваны на схіле гары ўпрытык да перадбрам'я.

У час раскопак былі даследаваны вал і роў каля паўн. падэшвы Замкавай гары насупраць Шчытавой вежы. У 13—14 ст. тут існавала гар. паселішча. Вал быў узведзены ў час будаўніцтва мураванага замка ў канцы 14—пач.15 ст. Яго вышыня дасягала 2,1 м. Паміж валам і падэшвай Замкавай гары быў роў шырынёй 13—15 м.

Касцельная вежа, блізкая ў плане да квадрата, на ўзроўні 1-га яруса мае пл. каля 20 $м^2$. Яе бутавы падмурак глыбінёй 3,8 м у паўн. і паўд. частках абапіраецца на каменныя падушкі магутнасцю 0,8—0,95 м. Яны выдаюцца ўнутр вежы на 0,5 м. Контрфорс, які падпірае паўн.-ўсх. вугал вежы, стаіць таксама на падушцы і мае на ўзроўні падэшвы даўжыню 3,5 м. Таўшчыня наслаенняў вакол і ўнутры вежы вагаецца ад 3,5 да 4,15 м. Пад яе падмуркам захаваўся культурны пласт таўшчынёй 15—17 см, які ўтварыўся на паселішчы да мураванага будаўніцтва. На ўзроўні падэшвы падмурка адзначана праслойка шэрай зямлі таўшчынёй 5—15 см з дамешкамі цаглянага друзу, дробных каменьчыкаў, кавалкаў вапнавай рошчыны. Тут знойдзены фрагменты гаршкоў 14 ст. Яе ўтварэнне звязана з пачаткам будаўніцтва Касцельнай вежы. Вышэй падэшвы паўн. падмурка на 0,4—0,5 м зафіксаваны слой пажару 1391 таўшчынёй 12—15 см. Сведчаннем штурму крыжакоў 1394 з'яўляецца праслойка пажару таўшчынёй 10—12 см, якая зафіксавана на 0,85 м вышэй за падэшву падмурка. Слой пажарышча перакрыты слоем будаўнічага смецця таўшчынёй да 0,6 м, што сведчыць пра аднаўленне будаўніцтва вежы. З-і слой пажарышча зафіксаваны на глыбіні 0,8 м ад паверхні зямлі каля вежы і на адзнацы 1,2 м унутры вежы. Пасля разбурэння ў выніку ваенных падзей 1536 спыніўся працэс фарміравання культурных напластаванняў у вежах. З гэтага моманту актыўнае жыццё ў вежах спынілася.

Раскопкі пацвердзілі меркаванне Ткачова пра значную рэканструкцыю замка ў канцы 15—пач. 16 ст. ў сувязі з пагрозай нападаў крымскіх татараў. Паўн. схіл пясчанай Замкавай гары быў узяты ў гліняны замок таўшчынёй 0,2—1 м. Вышыня ніжняга вала павялічана да 3,5 м, шырыня перавышала 20 м. Будаваліся новыя вежы (Дазорца, Месская), удасканальваліся старыя. Уязная брама Шчытавой вежы была дадаткова ўмацавана. Вакол яе была нарошчана цагляная муроўка сцен, звонку яны былі абкладзены плітамі пясчаніку. Паўд.-зах. і паўд.-ўсх. вуглы вежы былі падпёрты амаль квадратнымі ў плане (2,6 x 2,3 м) контрфорсамі вышынёй да 2,5 м. З паўн. боку паміж вежамі Дазорцай, Шчытавой і Касцельнай была вымурavana абарончая сцяна з валуноў на вапнавай рошчыне. Яе рэшткі вышынёй да 3,2—3,4 м пры таўшчыні больш за 2 м дагэтуль знаходзяцца ў зямлі. Такімі сценамі былі злучаны ўсе вежы.

*Літ.*: Gürtler R. Robota konserwatorska na górze Zamkowej w Nowogródku // Ochrona zabytków. Wilno. 1930/31. Z. 1—4; Ткачоў М.А. Замкі Беларусі. Мн., 1977; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991; Малевская М.В. Архитектурный комплекс Новогрудского детинца ХШ—XIV вв. // Древнерусское государство и славяне. Мн.,1983; Гурэвіч Ф.Д. Летапісны Новгородок. (Старажытнарускі Навагрудак). СПб.; Навагрудак, 2003.

***Валянцін Собаль.***

**Навагародскі кляштар дамініканак**, адзіны жаночы кляштар ордэна *дамініканцаў* на Беларусі. Існаваў у 17—19 ст. у г. Навагародак. Заснаваны ў 1654 М.Дамброўскім (паводле інш. звестак — у 1678 А.Пратасевіч, жонкай навагародскага земскага пісара). У 1690 пабудаваны мураваны касцёл Дзевы Марыі. У канцы 18—пач. 19 ст. кляштару належала частка в. Каменка Навагародскага пав. У 1864 скасаваны, 20 яго манашак накіраваны ў *Гарадзенскі кляштар брыгітак* і *Менскі кляштар бенедыкцінак*. У пач. 20 ст. касцёл разабраны на цэглу. У жылым будынку кляштара ў 1920-я г. размяшчалася ваяводская ўправа, у час Вял. Айч. вайны разбураны.

***Мікалай Гайба.***

**Навагародскі кляштар дамініканцаў**. Існаваў у г. Навагародак у 17—19 ст. Заснаваны канюшым ВКЛ, пазней віленскім ваяводам Я.К.Хадкевічам, які ў 1624 даў дамініканцам дом, пляц, пабудаваў драўляны касцёл св. Яцака. У канцы 17 ст. Бральніцкія і Астроўскія далі кляштару фальваркі Корыца і Перакопы (105 валок зямлі і шмат прыгонных). Драўляны касцёл згарэў у 2-й пал. 17 ст. Мураваны касцёл 1724 зведаў 2 пажары: 1751 (пасля рамонту асвячоны ў гонар Міхаіла Архангела) і 1831 (пасля адбудовы набыў сучасны класіцыстычны выгляд). Надмагільныя пліты-эпітафіі 18 ст. са сцен пакладзены ў падлогу. У 1794—1834 пры кляштары дзейнічала школа. У 1853 кляштар скасаваны, у 1858 касцёл стаў фарным (прыходскім), у 1898 у ім нелегальна ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар А.Міцкевіча. У касцёле зберагаецца фундатарскі партрэт Хадкевіча і алтарны абраз Міхаіла Архангела. Будынкі кляштара і школы не захаваліся.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Навагародскі кляштар францысканцаў**. Існаваў у г. Навагародак у 18—19 ст. Заснаваны навагародскім падстолім Т.Вайніловічам у 1714 (паводле інш. звестак — у 1780). У 1831 кляштар скасаваны. Барочны касцёл св. Антонія ў 1846 перабудаваны ў візантыйскім стылі ў правасл. сабор св. Мікалая (дзейнічае). Г-падобны ў плане будынак кляштара прыстасаваны пад жыллё.

***Міхаіл Дабрынін.***

**Навагародскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. Цэнтр — г. *Навагародак.* У 15 ст. фактычна супадаў з Навагародскім намесніцтвам *Троцкага ваяводства,* пасля 1507 — з *Навагародскім ваяводствам*. Амаль усю тэр. Н.п. займалі маёнткі мясц. баяр-шляхты, знаходзіліся таксама вотчыны магнатаў. Паводле попісу войска ВКЛ 1528 мясц. шляхта, што служыла ў Навагародскай харугве, выстаўляла 269 коннікаў, яшчэ 79 дробных баяр ішлі на вайну асабіста. Апрача таго, у Н.п. фарміравалася асобная татарская харугва ў складзе 36 коннікаў (з іх 7 татар служылі асабіста). Частка татар з Н.п., напэўна, служыла і ў інш. татарскіх харугвах. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 Н.п. стаў адным з 3 паветаў значна пашыранага Навагародскага ваяв., пры гэтым у склад павета непасрэдна ўвайшлі магнацкія вотчыны: Вераскава, Даляцічы, Ішкалдзь, Карэлічы, Любча, Нягневічы, Сталавічы, Уселюб, Шчорсы і інш. Да Н.п. былі далучаны Клецкае, Капыльскае, Слуцкае княствы, большая частка Глускай вол., вялікія, але слабазаселеныя магнацкія воласці на Пн Палесся. Межы Н.п. ўпершыню вызначаны прывілеем вял. кн. Жыгімонта Аўгуста ад 30.4.1565. Плошча павета ў гэтых межах каля 24,5 тыс. км². Харугва «пелістага» (адценне чырвонага) колеру. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 з прыватных маёнткаў Н.п. выстаўлялася каля 980 коннікаў, з іх каля 480 — з магнацкіх вотчын (не лічачы ўладанняў найбуйнейшых магнатаў — М.Радзівіла, Я.Хадкевіча, М.Кішкі, кн. Ю.Слуцкага, склад маёнткаў якіх у попісе не прыводзіцца), каля 500 — з маёнткаў павятовай шляхты. У 1650 Н.п. налічваў каля 41 тыс. дымоў, што адпавядае колькасці насельніцтва каля 278 тыс. чал. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* засталося 25,5 тыс. дымоў, 166 тыс. чал. У 2-й пал. 18 ст. ў Н.п. было звыш 1800 паселішчаў, насельніцтва — каля 334 тыс. чал. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) большая частка павета далучана да Рас. імперыі, зах. частка павета — пры 3-м падзеле (1795)

***Вячаслаў Насевіч.***

**Навагародскі фарны касцёл**. Заснаваны ў г. Навагародак вял. князем Вітаўтам у 1395. Першы гатычны касцёл праіснаваў да 1712. На яго месцы ўзведзены новы мураваны ў стылі барока, асвячоны ў 1723 віленскім біскупам М.Ю.Анцутам. Храм 1-нефавы, з 2-вежавым гал. фасадам і паўкруглай алтарнай апсідай, да якой з паўн. боку прылягае сакрыстыя. У кампазіцыю будынка ўключаны 2 стараж. гранёныя капліцы ранейшага касцёла. Каб зрабіць іх непрыкметнымі з боку ўвахода, сцяна гал. фасада і вежы ссунуты адносна падоўжнай восі будынка, што надае яму замаскіраваную асіметрычную кампазіцыю. Сцены па перыметры завершаны адзінай цягай карніза, якая падзяляе гал. фасад на высокую ніжнюю частку і трохвугольны атыкавы франтон паміж чацверыковымі вежамі, накрытымі пакатымі шатрамі. Аконныя праёмы і нішы маюць паўцыркульныя арачныя завяршэнні. Інтэр'ер перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Над уваходам размешчаны фігурныя ў плане хоры. У капліцах захаваліся гатычныя зорчатыя нервюрныя скляпенні, вітражы. У капліцы Божага Цела ў паўн. сцяне ўмуравана мемарыяльная пліта (чорны мармур, пясчанік, 275 × 150 см), заказаная ў 1643 кашталянам Я.Рудамінам у памяць аб браце і суседзях, якія загінулі ў Хацінскай бітве 1621. Касцёл дзейнічае.

***Тамара Габрусь.***

**«Нойбургскія маёнткі»**, спадчынныя ўладанні згаслай пасля смерці Б.*Радзівіла* ў 1669 біржанскай лініі Радзівілаў: Слуцкае і Капыльскае княствы, Себежскае і Невельскае графствы, Копысь, Раманава, Беліца, Койданава, Біржы, Дубнікі, Кейданы, Заблудаў і інш. Радзівіл завяшчаў усе свае маёнткі дачцэ Л.К.*Радзівіл*. Былі вызначаны 12 апекуноў, у т.л. брандэнбургскі электар Фрыдрых Вільгельм і М.К.Радзівіл з нясвіжскай лініі. Брандэнбургскі электар пастараўся, каб Л.К.Радзівіл выйшла замуж за яго сына Людвіка. Шлюб адбыўся 7.1.1681, аднак 7.4.1687 хворы на тыф Людвік памёр. Л.К.Радзівіл заручылася з Якубам, сынам караля Яна III Сабескага, і пісьмова абяцала, што калі сарве заручыны, то страціць усе свае ўладанні ў ВКЛ. Гэта не перашкодзіла ёй 10.8.1688 заключыць шлюб з нойбургскім электарам Карлам Філіпам. Яну III не ўдалося завалодаць маёнткамі Л.К.Радзівіл, бо на яе баку выступілі сваякі Сапегі, а



**НОВАГАРОДСКІ ПАВЕТ у канцы XVI ст.**

НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

паводле адміністрацыйнага значэння

Цэнтр ваяводства; Цэнтры паветаў

Цэнтры буйнейшых уладанняў (валасцей)

Іншыя населеныя пункты

паводле прыналежнасці

Дзяржаўная ўласнасць

Шляхецкая ўласнасць

Уласнасць каталіцкай царквы

Уласнасць праваслаўнай царквы

Замкі ў населеных пунктах

паводле тыпу паселішча

НАВАГАРОДАК Гарады; Мір Мястэчкі; Прусы Вёскі

МЕЖЫ

ваяводстваў

паветаў

Найважнейшыя дарогі

Лічбамі на карце пазначаны вёскі:

1.Нянькава, 2.Поўбераг, 3.Верабёвічы, 4.Асташын, 5.Лоўчыцы, 6.Літоўка, 7.Ладзейнікі, 8.Гарадзечна, 9.Суліцічы, 10.Несутычы, 11.Бролькікі, 12.Сэрвач, 13.Кайшоўка, 14.Асташы, 15.Міратычы, 16.Рамашкавічы, 17.Якшыцы, 18.Бабаевічы, 19.Вял.Балевань, 20.Блеўчыцы, 21.Быстрыца, 22.Бялзерхавічы, 23.Масцілавічы, 24.Астроўчыцы, 25.Мацкевічы, 26.Залужжа

Аўтар карты М.Ф.Спірыдонаў

МАШТАБ 1:1 400 000

вял. гетман ВКЛ Я.К.Сапега заняў войскамі яе ўладанні. Кіраванне маёнткамі ў ВКЛ Л.К.Радзівіл ажыццяўляла праз аканомаў, найб. вядомым з іх быў С.*Незабытоўскі*. Пасля смерці Л.К.Радзівіл у 1695 на яе ўладанні прад'явілі прэтэнзіі прадстаўнікі нясвіжскай лініі Радзівілаў, абгрунтоўваючы свае правы сфальсіфікаваным запісам Б.Радзівіла ад 28.6.1669 аб перадачы пасля яго смерці і смерці дачкі ўсіх уладанняў біржанскай лініі Радзівілаў нясвіжскім сваякам. Радзівілаўскім прадстаўнікам не ўдалося заняць «Н.м.», бо супраць выступілі Сапегі. Войскі ВКЛ пад камандаваннем вял. гетмана Сапегі ў некалькіх узброеных сутычках разбілі радзівілаўскія войскі і занялі ўсе ўладанні Л.К.Радзівіл, прыняўшы прысягу ў жыхароў ад імя рэйнскага электара Карла Філіпа. 18—20.4.1695 на радзе Сената кароль Ян III Сабескі быў прызнаны апекуном дачкі Л.К.Радзівіл, Эльжбеты Аўгусты, але не здолеў рэалізаваць гэтую пастанову. Сапегі атрымалі ў Трыбунале ВКЛ 21.4.1695 пацвярджэнне, што ўладанні Л.К.Радзвіл дастануцца яе дачцы Эльжбеце Аўгусце, апекуном якой быў прызначаны вял. гетман Сапега. 30.6.1697 Сапегі падпісалі дагавор з Карлам Філіпам, паводле якога апекуном «Н.м.» стаў Сапега. Дамова была пацверджана 31.11.1699 каралём Аўгустам II. Аднак магутнасць Сапегаў была падарвана ў выніку бітвы са сканфедэраванай шляхтай пад Алькенікамі 18.11.1700. Дапамогу канфедэратам аказваў і канцлер ВКЛ К.С.Радзівіл, які пасля паражэння Сапегаў стаў апекуном «Н.м.». Паўн. вайна 1700—21 прынесла значныя спусташэнні «Н.м.». Гэта паскорыла заключэнне дагавора 1.7.1714 паміж Карлам Філіпам і Аўгустам II. Апошні атрымаў за

200 тыс. рэйнскіх залатых усе «Н.м.» ў заставу. У маі 1714 Сапегі аб'явілі свае прэтэнзіі на «Н.м.» і заключылі ў гэтай справе саюз з вял. гетманам ВКЛ Л.Пацеем. Яму яны абяцалі трэцюю частку «Н.м.». Канстытуцыя сойма 1717 канчаткова прызнала «Н.м.» земскімі, якія належалі Эльжбеце Аўгусце. Сапегі і Пацей аспрэчылі яе правы ў Трыбунале ВКЛ 1719. Падставай быў яе шлюб не з жыхаром Рэчы Паспалітай Іозефам Карлам дэ Зульцбахам без згоды бліжэйшых родзічаў, Сапегаў. Трыбунал ВКЛ 1719 прысудзіў «Н.м.» Сапегам як бліжэйшым родзічам Эльжбеты Аўгусты. У наступныя гады Сапегі і Пацей атрымалі яшчэ некалькі рашэнняў Трыбунала ВКЛ на сваю карысць. Іх выкананню перашкаджала тое, што «Н.м.» знаходзіліся ў заставе ў Аўгуста II. Пры пасрэдніцтве Пацея 7.11.1729 Сапегам удалося заключыць дагавор аб выплаце Аўгусту II сумы заставы. 3.1.1730 нечакана памёр Пацей, і кароль адмовіўся выконваць дагавор з Сапегамі. Нясвіжскім Радзівілам 19.10.1730 удалося заключыць дагавор аб шлюбе Г.Ф.Радзівіла з малодшай дачкой Эльжбеты Аўгусты Францішкай. Да шлюбу Радзівілы атрымоўвалі «Н.м.» ў заставу. Сапегі аспрэчылі гэта ў Трыбунале ВКЛ. Апагей канфлікту прыпаў на Трыбунал ВКЛ 1731. Перамаглі Сапегі дзякуючы падтрымцы Агінскіх, якім была абяцана трэцяя частка «Н.м.». Сапегі вырашылі выканаць пастановы Трыбунала ВКЛ і з дапамогай зброі заняць «Н.м.», аднак гэтаму перашкодзіў Аўгуст II, які загадаў канцлеру ВКЛ і рэгіментару М.Вішнявецкаму абараніць «Н.м.». 8.3.1732 Сапегі і Радзівілы заключылі дагавор, паводле якога Сапегі адмаўляліся ад усіх правоў на «Н.м.» за 2 млн. злотых.




Атрыманыя Радзівіламі маёнткі знаходзіліся ў дрэнным стане. Шляхта-пасэсары трымалі «Н.м.» на вельмі выгадных умовах, родзічы аканомаў захапілі дадатковыя землі. Радзівілы адразу пачалі вяртаць застаўленыя маёнткі і мяняць умовы арэнды. Гэта выклікала незадаволенасць пасэсараў і іх доўгі канфлікт з Радзівіламі, які скончыўся толькі ў пач. 1740-х г. Адначасова Радзівілы былі заняты справамі ў Трыбунале ВКЛ з Пацеямі і Сапегамі наконт выплаты ім грошай за адмову ад правоў на «Н.м.». Быў прызнаны сапраўдным запіс Б.Радзівіла аб перадачы сваіх уладанняў нясвіжскай лініі роду Радзівілаў. Гэта было важным, бо рэйнскі электар адмовіўся выдаць сваю ўнучку замуж за Г.Ф.Радзівіла. Удалося Радзівілам і адцягнуць Сапегаў ад саюзу з пасэсарамі «Н.м.». Аднак на баку апошніх выступілі Чартарыйскія, а крыху пазней і Сапегі. Радзівілы былі вымушаны пайсці на кампраміс і 22.12.1740 заключылі дагавор з Міхалам Антоніем Сапегам аб выплаце застаўшыхся грошай за адмову Сапегаў ад правоў на «Н.м.». У 1743 нечакана свае прэтэнзіі на «Н.м.» аб'явіў прускі кароль Фрыдрых II. Радзівілам удалося 8.7.1743 заключыць з ім дагавор, паводле якога Фрыдрых II за 150 тыс. злотых адмаўляўся ад сваіх правоў на «Н.м.», але пакідаў сабе занятыя раней Сярэі і Таўрогі. У 1749 Радзівілы выплацілі астатнія грошы з сумы 150 тыс. рэйнскіх залатых рэйн-

скаму электару. 19.6.1751 падпісана канчатковая адмова рэйнскага электара ад прэтэнзіі на «Н.м.».

*Літ.*: Anusik Z., Stroynowski A. Radziwiłłowie w epoce saskiej: Zarys dziejów politycznych i majątkowych // Acta Universitatis Lodziensis. Folia Historica. 1989. T. 33; Lesiński J. Spory o dobra neuburskie // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 1996. T. 6; Kamieński A. Polska a Brandenburgia—Prusy w drugiej połowie XVII wieku: Dzieje polityczne. Poznań, 2002; Мацук А. Зямельныя ўладанні Радзівілаў у украінскіх, літоўскіх і беларускіх ваяводствах Рэчы Паспалітай у 20—60 гг. XVIII ст. // Беларусь — Украіна: гістарычны вопыт узаемных адносін. Мн., 2003; Яго ж. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці ВКЛ у 20-ых—пачатку 30-ых гг. XVIII ст. // Вестник Полоцкого гос. ун-та. Гуманит. науки. 2005. № 1; Яго ж. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» у 1730—1740-я гады // Бел. гіст. часопіс. 2005. №3.

***Андрэй Мацук.***

**Нонхарт** (Nonhardt, Nonhaart, Nonharteken) Пётр (?—1633), галандскі архітэктар і будаўнік. З 1611 заг. каралеўскіх збудаванняў у Вільні і шэф каралеўскіх фартыфікацый у ВКЛ. На Беларусі збудаваў *Гайцюнішскі дом-замак.*

**Ноўгарад-Северскае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе, удзельнае княства на тэрыторыі *Северскай зямлі*. Утварылася пасля 1454, калі ў ВКЛ з Ноўгарада праз Пскоў прыбыў сын лютага ворага вял. князя маскоўскага Васіля Цёмнага кн. Іван Дзмітрыевіч Шамякін (Шамячыч). Ад Казіміра IV ён атрымаў г. Ноўгарад-Северскі і, магчыма, Рыльск. Пасля смерці Івана Шамякіна (да 1487) Н.-С.к. атрымалі яго сыны. Яны прымалі актыўны ўдзел у ваенных акцыях вял. князя літоўскага. У 1492—93 Сямён Шамячыч адваяваў захопленыя ад'ехаўшым у Маскву кн. С.Ф.Варатынскім Сярпейск і Мезецк. У 1497 Васіль Шамячыч хадзіў у паход на Малдаўскае княства. У 1499 разам з князямі Сямёнам Бельскім і Сямёнам Мажайскім Васіль Шамячыч увайшоў у змову з Іванам III. Пасля захопу 3.5.1500 Якавам Захар'іным Кошкіным Бранска Васіль Шамячыч прысягнуў Івану III. На маскоўскі бок князь перайшоў разам з Ноўгарадам-Северскім і захопленым Рыльскам, а ад Івана атрымаў яшчэ Радагошч і, магчыма, Пуціўль. У 1523 кн. Васіль Шамячыч западозраны ў здрадзе і зняволены, дзе і памёр у 1529. Н.-С.к. было скасавана.

*Літ.*: Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Зимин А.А. Витязь на распутье: Феодальная война в России XV в. М., 1991; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Русина О. Сіверська земля у складі Великого князівства Литовського. Київ, 1998.

***Віктар Цемушаў.***

**Нябаба** Антон (?, г. Карастышаў Кіеўскага ваяв.—пасля 1648), кіраўнік казацка-сялянскага атрада на Беларусі ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Летам 1648 атрад (загон) Н. дзейнічаў на тэр. ўздоўж р. Прыпяць, граміў маёнткі шляхты і каталіцкага духавенства. У вер. 1648 далучыўся да паўстаўшых гараджан Пінска (гл. *Пінска абарона 1648*), разам з імі 5—9.10.1648 абараняў горад ад войск ВКЛ на чале са стражнікам ВКЛ Р.Мірскім. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.*: Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978.

**Нябаба** Марцін (?, г. Карастышаў Кіеўскага ваяв.—6.7.1651), чарнігаўскі палкоўнік казацкага войска ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. У 1648 пасланы Б.Хмяльніцкім на Пд Беларусі, дзе аб'яднаўся з паўстаўшымі сялянамі і гар. нізамі. Авалодаў Лоевам, Гомелем і інш. На працягу 1649 неаднаразова штурмаваў Гомель. У 1651 на чале чарнігаўскага і нежынскага палкоў (15 тыс. чал.) пасланы для аховы лоеўскіх пераправаў цераз Дняпро, каб не дапусціць войскі ВКЛ на чале з гетманам польным ВКЛ Я.Радзівілам на Украіну. Стаўка Н. размяшчалася каля в. Рэпкі, за 5 міль на ПнУ ад Лоева. Частку войска (7 тыс. чал.) ён накіраваў пад Гомель (гл. *Гомеля абарона 1651*), атрад у 3 тыс. чал. — на ахову лоеўскіх пераправаў. 6.7.1651 частка войска ВКЛ на чале са стражнікам ВКЛ Р.Мірскім (2500 чал.) разбіла казацкую «старожу» каля пераправаў. З намерам знішчыць атрад Мірскага Н. рушыў да Лоева, куды падышло войска Радзівіла. У час бітвы (гл. *Лоеўская бітва 1651*) некалькі тысяч казакоў, у т.л. і Н., былі забіты. У знак павагі да мужнасці Н. гетман Радзівіл загадаў «над яго магілай зрабіць вялікі насып».

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1960; Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965.

***Васіль Мялешка.***

**Нямецкі ордэн**, Тэўтонскі ордэн, Крыжацкі ордэн, каталіцкая рыцарска-манаская арганізацыя і дзяржава. Заснаваны ў Палесціне ў 1198—99 у час 3-га крыжовага паходу. Яго задачамі былі апека над пілігрымамі, хворымі і барацьба з «нявернымі» (мусульманамі). Хоць у статуце нічога не гаварылася пра абмежаванні членства і ордэн быў адкрыты для ўсіх, незалежна ад нац. і сац. паходжання, у ім ад пачатку дамінавалі немцы. Назва ордэна па-лацінску каротка фармулявалася як Ordo Theutonicorum, афіцыйнае ж яго найменне паходзіла ад шпіталя Марыі ў Іерусаліме («Ордэн шпіталя найсвяцейшай дзевы Марыі ў Іерусаліме») і не мела азначэння «нямецкі» («тэўтонскі»). У склад Н.о. ўваходзілі браты-рыцары, капеланы і працаўнікі (абслуга). Пасвячэнне ў рыцары суправаджалася касцельнай цырымоніяй і ўрачыстай прысягай, у


1


2


3

Пячаткі вялікіх магістраў **Нямецкага ордэна**: 1 — Дзітрыка фон Альтэнбурга; 2 — Вінрыка фон Кніпродэ; 3 — Міхаэля Кюхмайстэра.



якой неафіт абавязваўся прысвяціць жыццё змаганню за веру, заступацца за слабейшых і г.д. На чале ордэна стаяў пажыццёва выбраны вял. магістр (Hochmeister, magister generalis). Яму падпарадкоўваліся цэнтр. ўраднікі — комтур, маршал і інш. Рэзідэнцыяй спачатку быў Акон у Палесціне, пасля яго падзення ў 1291 — Венецыя, а ў 1309 — Мальбарк (Марыенбург). Уладанні ордэна падзяляліся на вобласці (Balleien) на чале з краёвымі магістрамі (Landmagister): Нідэрланды, Багемія, Аўстрыя, Цюрынгія-Саксонія, Эльзас-Бургундыя, Латарынгія, Кобленц, Марбург, Боцэн і Вестфалія. У 1221 вял. магістр Герман фон Зальцэ атрымаў папскі прывілей, які пазбавіў ордэн кантролю свецкіх улад. У Еўропу жыццёвыя інтарэсы ордэна сталі перамяшчацца ў пач. 13 ст. У 1211 яго рыцары былі пакліканы венгерскім каралём Андрэем II для абароны Сяміграддзя ад полаўцаў, але ў 1224—25 былі выгнаны адтуль. Усталяванне ордэна ў Прусіі пачалося на падставе прывілея імператара Фрыдрыха II (1226), Крушвіцкага дагавора з кн. Конрадам I Мазавецкім (1234), які згадзіўся на стварэнне самастойнай рыцарскай дзяржавы ў Прусіі, і булы папы Грыгорыя IX (1234), які перадаў зямельныя ўладанні ордэну ў якасці папскага лена. Па просьбе мазавецкага князя рыцары пачалі барацьбу з прусамі, якіх яны канчаткова падпарадкавалі да 1283. У 1233 да Н.о. далучылася частка Дабжынскага ордэна, а ў 1237 — *Інфлянцкі ордэн*. Пры падтрымцы імператараў і папаў на ўладаннях ордэна была створана ордэнская дзяржава, якая імкнулася пашырыць сваю тэрыторыю. З 1283 пачаліся войны ордэна з ВКЛ (гл. *Паходы Нямецкага ордэна*). У 1308—09 Н.о. падпарадкаваў Гданьскае Памор'е, таму ў вайну з крыжакамі ўступіла і Польшча, але пасля іх замірэння ў 1349 ваенны патэнцыял ордэна быў скіраваны гал. чынам супраць ВКЛ. У гэтых паходах удзельнічала мноства зах.-еўрапейскага рыцарства. Н.о. быў важным фактарам паліт. і гаспадарчага жыцця Еўропы, у т.л. Беларусі. У цэнтр.-еўрапейскім рэгіёне ў 14—пач. 15 ст. ён быў самай моцнай ваеннай сілай, хоць на пач. 14 ст. ордэнскія ўладанні складалі не больш за 58 тыс. км². Хуткі занепад ордэна пачаўся пасля *Вялікай вайны 1409—11* і *Грунвальдскай бітвы 1410*. У 1454 рыцарства і гараджане паўсталі супраць ордэнскіх улад і перадалі прускія землі польскаму каралю Казіміру IV. 13-гадовая вайна 1454—66, у якой ордэн імкнуўся атрымаць сатысфакцыю, скончылася перамогай Польшчы, замацаванай *Тарунскім мірам 1466*. У 1519—21 адбылася новая вайна з Польшчай. У 1525 апошні вял. магістр *Альбрэхт* Брандэнбургскі секулярызаваў ордэн і ператварыў яго ў свецкае *Прускае герцагства* (на яго аснове ў 1701 створана Прускае каралеўства) і стаў васалам польскага караля Жыгімонта I Старога. Як каталіцкая арганізацыя Н.о. існуе і цяпер. Сядзіба і архіў ордэна знаходзяцца ў Вене. Ён вядзе рэлігійна-асветную і дабрачынную дзейнасць, з 1960 выдае серыю «Крыніцы і даследаванні па гісторыі Нямецкага ордэна».

*Літ.*: Mashke E. Domus Hospitalis Teutonicorum. Bonn; Godesberg, 1970; Biskup M., Labuda G. Dzieje Zakonu krzyżackiego w Prusach. Gdańsk, 1986; Samsonowicz H. Krzyżacy. Warszawa, 1988; Boockmann H. Der Deutsche Orden: Zwölf Kapiteln aus seiner Geschichte. München, 1994.

***Генадзь Сагановіч.***

**Нямцэвіч** (Урсын-Нямцэвіч) Юльян (16.2.1758, в. Скокі Берасцейскага пав.—21.5.1841), пісьменнік, палітычны дзеяч, гісторык. З роду *Нямцэвічаў*. У 1770—77 вучыўся ў Рыцарскай школе ў Варшаве. З 1777 ад'ютант А.К.*Чартарыйскага*. Падарожнічаў па Еўропе. Пасол на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*, удзельнічаў у распрацоўцы *Канстытуцыі 3 мая 1791*. З



Ю.**Нямцэвіч**. Партрэт Я.Чачкоўскага паводле ўзору Ю.Грасі.

1791 чл. *Адукацыйнай камісіі*. Пасля перамогі Таргавіцкай канфедэрацыі ў 1792 у эміграцыі ў Саксоніі, Аўстрыі, Італіі. У час паўстання 1794 ад'ютант і сакратар Т.*Касцюшкі*. Быў паранены ў Мацяёвіцкай бітве і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбургу. У 1796 разам з Касцюшкам выехаў у ЗША. У 1807 вярнуўся, займаў пасаду сакратара Сената Варшаўскага княства. З 1813 сакратар Сената Каралеўства Польскага. У сваім маёнтку Урсынаў каля Варшавы сабраў значную б-ку (4 тыс. тамоў). Чл. Т-ва сяброў навук у Варшаве (старшыня з 1827). Зрабіў некалькі падарожжаў з мэтай адшукання і апісання «нацыянальных помнікаў», па Беларусі — у 1809, 1816 і 1819. У час паўстання 1830—31 увай-



Сядзіба Ю.**Нямцэвіча** ў Скоках. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.



шоў у Часовы ўрад, абраны сенатарам-кашталянам. Пасля ўэміграцыі ў Парыжы. Быў звязаны з кансерватыўным лагерам эміграцыі на чале з А.Е.Чартарыйскім. Адзін з найвыдатнейшых пісьменнікаў польскага Асветніцтва, аўтар драматычных і паэтычных твораў, аповесцей, падарожжаў. У паліт. камедыі «Вяртанне пасла» (1790) выказаўся за сац. рэформы ў Рэчы Паспалітай, вызваленне сялян ад прыгону. Аўтар зборнікаў «Літоўскія пісьмы» (1812), дзе адлюстравана мясцовая бел. тэматыка, цыкла «Гістарычныя песні» (1816), раманаў «Два паны Сяцехі» (1815), «Ян з Тэнчына» (1825) і інш. У кнізе «Гістарычныя падарожжы па польскіх землях, што адбыліся ад 1811 да 1828 гг.» (1858) апісаў Брэсце, Гародню, Навагародак, жыццё бел. сялян. Напісаў «Гісторыю панавання Жыгімонта III» (т. 1—3, 1818—19), «Сучасную гісторыю» (1863), «Жыцці значных людзей XVIII ст.» (1904). Ініцыятар і рэдактар выдання «Збор гістарычных мемуараў пра старажытную Польшчу» (т. 1—7, 1822—36), у які ўключыў «Дыярыушы» С. і Б. Маскевічаў. Гістарычныя погляды Н. абапіраліся на канцэпцыю школы А.*Нарушэвіча* з яе ідэямі пра ўнутраныя прычыны заняпаду Рэчы Паспалітай. Аўтар шматлікіх мемуараў, у т.л. «Дзённікаў часоў маіх» (1848, дапоўненае выд., т. 1—2, 1957).

*Тв.*: Dzieła poetyckie wierszem i prozą. T. 1—12. Lipsk, 1838—43; Listy z Ameryki do Adama Kazimierza Czartoryskiego (1798—1806). Toruń, 2003; Dzienniki 1835—1836. Warszawa, 2005.

*Літ.*: Dihm J. Niemcewicz jako polityk i publicysta w czasie Sejmu Czteroletniego. Kraków, 1928; Яго ж. Niemcewicz jako historyk // Sprawozdania Polskiej Akademii Nauk. 1961. Z. 1; Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968. С. 76—95; Grabski A.F. Myśl historyczna polskiego oświecenia. Warszawa, 1976; Zbyszewski K. Niemcewicz od przodu i tyłu. Warszawa, 1999; Julian Ursyn Niemcewicz: pisarz, historyk, świadek epoki. Warszawa, 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нямцэвічы** (Урсын-Нямцэвічы), шляхецкі род герба «Равіч». Вядомы з 16 ст., валодалі маёнткамі ў Берасцейскім, Навагародскім, Віленскім ваяв. З 17 ст. карысталіся прыдомкам Урсын (алюзія на выяву ў гербе мядзведзя — лац. ursus). Найб. вядомыя:

Францішак (1718, в. Клейнікі каля Берасця?—30.12.1795), чашнік берасцейскі ў 1750, суддзя каптуровы ў 1764 і земскі з 1770, староста равяціцкі з 1770-х г. Пасол на соймы 1750, 1764 (падпісаў элекцыю Станіслава Аўгуста Панятоўскага), 1773—75. У 1769 збудаваў базыльянскую царкву ў в. Непля каля Берасця.

Станіслаў (1753, в. Клейнікі каля Берасця—22.11.1817), сын Францішка. У 1768—73 вучыўся ў Рыцарскай школе ў Варшаве. Уваходзіў у склад камісіі па дэмаркацыі мяжы з Расіяй пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай. З 1776 рэгент па справах ВКЛ у вайсковым дэпартаменце Пастаяннай Рады. Пасол на сойм 1782, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1781—82, староста равяціцкі. У 1786 абраны чл. Пастаяннай Рады, да 1788 у дэпартаменце паліцыі. З 1790 пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92, выступаў супраць Канстытуцыі 3 мая 1791. На чале харугвы кавалерыі ўдзельнічаў у вайне з Расіяй 1792, у бітве пад Мірам 11.6.1792. Далучыўся да паўстання 1794, праводзіў мабілізацыю ў Берасцейскім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай заняў лаяльную пазіцыю да рас. улад. Падтрымліваў планы А.Е.Чартарыйскага адбудовы Польскай дзяржавы пад сюзерэнітэтам Расіі. У 1801—07 гродзенскі маршалак, з 1816 губернатар. Выдаў «Зборнік законаў і ўказаў, як у дзённіках, так і асобна агалошаных: аб прэрагатывах шляхты...» (т. 1—3, 1805).

Юльян (16.2.1758, в. Скокі Берасцейскага пав.—21.5.1841), гл. *Нямцэвіч* Ю.

***Валерый Пазднякоў.***

**Няпрэцкі** (Няпшэцкі; Nieprzecki) Ян (1718, Беларусь—1750), вучоны-матэматык і картограф. Чл. ордэна езуітаў. Выкладаў у калегіях у Навагародку, Гародні, Варшавы і інш. У 1749 у нюрнбергскай друкарні нашчадкаў Гомана выдадзена яго карта «Вялікае княства Літоўскае» (54,9 × 47,2 см, маштаб каля 1:1 600 000) пад рэдакцыяй нямецкага картографа Т.Маера.

*Літ.*: Buczek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII w. Warszawa, 1963; Krassowski B. Polska na mapach wydawców norymberskich i ausburskich z XVIII wieku. Warszawa, 1985; Lithuania on the map. Vilnius, 2004; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў. Мн., 2004; Яго ж. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. 1. Мн., 2005.

***Леў Казлоў.***

**Нясвіж** (цяпер горад, цэнтр Нясвіжскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Навагародскім пав., на р. Уша. Упершыню ўпамінаецца ў 1446 як уласнасць Сляўкі, перададзеная вял. кн. літоўскім Казімірам IV М.Неміровічу. З 1492 уласнасць маршалка ВКЛ П.Я.Мантыгірдавіча, з 1523 — Радзівілаў. У 1547 з атрыманнем М.Радзівілам Чорным княжацкага тытула Н. стаў цэнтрам *Нясвіжскага княства*. У сярэдзіне 15 ст. ў Н. дзейнічаў кальвінскі збор, заснавана пратэстанцкая *Нясвіжская друкарня*, дзе друкаваў кнігі на бел. мове С.Будны. У канцы 16 ст. М.К.*Радзівіл* Сіротка ператварыў Н. у буйны асяродак распаўсюджання каталіцтва ў Беларусі, даў гораду шматлікія прывілеі. Па яго ініцыятыве 23.4.1586 Н. атрымаў магдэбургскае права, герб: шчыт, на адной палове якога палова чорнага арла (элемент герба Радзівілаў), на другой — 10 палос блакітнага, чырвонага і залатога колераў. Горад быў перабудаваны паводле зах.-еўрапейскіх прынцыпаў: прамавугольная планіроўка з 2 мураванымі брамамі на восі гал. вуліцы (пазней зроблена яшчэ некалькі брам), у цэнтры Н. — прамавугольная гандлёвая плошча з ратушай; горад быў умацаваны валам і ровам. У 1584 заснаваны *Нясвіжскі езуіцкі калегіум*, у 1591 — *Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак*, у 1598 — *Нясвіжскі кляштар бернардзінцаў*. У 1583 распачата будаўніцтва *Нясвіжскага замка*. У 1586 Н. стаў цэнтрам зямельнага ўладання Радзівілаў — Нясвіжскай ардынацыі з рысамі дзярж. адзінкі ў Навагародскім ваяв. У 1625 горад зведаў мор, што паспрыяла адкрыццю тут у 1627 аптэкі, у 1651 мор паўтарыўся. У 1626 у прадмесці Новае Места збудавана езуіцкая капліца св. Ізыдора. У вер. 1655 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Н. заняты ўкр. казакамі і рас. войскамі, але замак аблогу вытрымаў. У 1660 Н. зноў разбураны, замак выстаяў. У 1672 заснаваны *Нясвіжскі кляштар дамініканцаў*. У 1673 у Н. каля 2,4 тыс. жыхароў, 366 дымоў. Паводле каралеўскага прывілея ў 1681 заснаваны кірмаш. Моцна пацярпеў Н. ад шведаў у час Паўночнай вайны 1700—21 (гл. *Нясвіжа абарона 1706*). Горад і за-



мак адбудаваны ў 1720-я г. М.К.*Радзівілам* Рыбанькам, які ў 1740-я г. заклаў мануфактуру шаўковых паясоў (пазней пераведзена ў Слуцк), у 1747 — *Нясвіжскі кадэцкі корпус*, у 1750 аднавіў друкарню, у 1750—53 адбудаваў езуіцкі касцёл, у 1752 заснаваў *Нясвіжскую дывановую мануфактуру* і *Нясвіжскую суконную мануфактуру*. Па ініцыятыве яго жонкі Ф.У.*Радзівіл* пачаў дзейнічаць *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў* з капэлай і балетнай школай. У фальварку *Альба*, дзе з канца 16 ст. знаходзілася загарадная рэзідэнцыя Радзівілаў, былі ўзведзены палац «Эрмітаж», інш. пабудовы, зроблены набярэжныя каналаў. У 1764 і 1768 Н. заняты рас. войскамі з-за антырас. пазіцыі К.С.*Радзівіла* Пане Каханку ў час выбараў новага караля і ўдзелу ў *Барскай канфедэрацыі*; гіст. і мастацкія каштоўнасці замка былі канфіскаваны, бібліятэка (10 тыс. кніг) у 1772 вывезена ў Пецярбург і паступіла ў Акадэмію навук. У якасці кампенсацыі за гэта ў 1775 Радзівіл атрымаў ад рас. ўрада 6 млн. злотых. У 1773 з утварэннем Адукацыйнай камісіі ў Н. арганізавана павятовая падакруговая школа. У час вайны з Расіяй 1792 Н. заняты рас. войскамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Taurogiński B. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937; Яго ж. Nieśwież. Warszawa, 1937; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Пер. з пол. Мн., 1992; Ciechanowiecki A.S. Nieśwież: międzynarodowy ośrodek kultury na Białorusi (od XVI do XX w.). Warszawa, 1994; Bernatowicz T. Miles christianus et peregrinus: Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998; Nieśwież: Historia. Kultura. Sztuka. Materiały konferencji naukowych w Nieświeżu (1994, 1997). Warszawa; Mińsk, 1998; Нясвіжскія зборы Радзівілаў: Іх фарміраванне, гістарычны лёс, цяперашняе месцазнаходжанне і шляхі выкарыстання. Мн., 2002; Шышыгіна-Патоцкая К.Я. Нясвіж і Радзівілы. 2 выд. Мн., 2002; Коваленко Д.А. Планировка и застройка средневековых Несвижа и Копыси // Материалы по археологии Беларуси. Мн., 2005. Вып. 9; Яго ж. Историко-топографическое развитие городов Радзивиллов Копыси и Несвижа // Там жа.

***Валерый Пазднякоў.***



**Нясвіж**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

**Нясвіжа абарона 1706**. Адбывалася ў сак.—маі ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21*. У пач. 1706 ваен. дзеянні з Польшчы перакінуліся на тэр. ВКЛ. Шведскі кароль Карл XII, стаўшы лагерам пад Гародняй, пасылаў войскі нішчыць гарады і замкі прыхільнікаў караля польскага і вял. князя літоўскага Аўгуста II Моцнага. У сак. 1706 атрад падпалкоўніка Траўтфэтэра быў накіраваны ў Нясвіж, уласнасць канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла. У горадзе акрамя радзівілаўскага гарнізона стаяла 2000 укр. казакоў палкоўніка Міхаловіча. 14.3.1706 Траўтфэтэр 3 батальёнамі драгун атакаваў адначасова браму з боку Міра і гар. валы. Захапіўшы з ходу браму, шведы ўварваліся ў горад. У вулічных сутычках быў забіты Міхаловіч і каля 300 казакоў. 500 казакоў зачыніліся ў езуіцкім калегіуме, авалодаць якім Траўтфэтэр не здолеў з-за адсутнасці гармат вял. калібру. Рэшта казакоў вяла агонь па шведах з гар. дамоў. Шведы падпалілі горад, у агні і сутычках загінула некалькі соцень казакоў, каля 180 здаліся. Добра ўмацаваны Нясвіжскі замак Траўтфэтэр не стаў штурмаваць і рушыў на Ляхавічы. 10.5.1706 у Нясвіж увайшлі войскі на чале з Карлам XII. У Нясвіжскім замку знаходзіўся гарнізон пад камандаваннем Балімана, з 200 чал. якога 90 былі прафесійнымі вайскоўцамі, астатнія — мяшчане і сяляне. Да Балімана былі пасланы Траўтфэтэр і ген.-ад'ютант Расенштэрн з патрабаваннем праз 1 гадзіну здаць замак. Не маючы надзеі на падтрымку, камендант выканаў патрабаванне. Шведы спалілі ваенны рыштунак з арсенала, патапілі 21 захопленую гармату, каменданта і ўвесь гарнізон адпусцілі на волю. Замкавыя ўмацаванні былі разбураны, горад спалены, за выключэннем касцёлаў і кляштараў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нясвіжскае княства**, буйное феадальнае зямельнае ўладанне князёў *Радзівілаў* у 16—18 ст. у Навагарадскім пав. Цэнтр — г. *Нясвіж*. Выказвалася меркаванне, што Н.к. існавала ў 13 ст., бо ў бітве на р. Калка ў 1223 манголы сярод інш. князёў забілі «Святослава Шумьскаго, Мстислава Черневовськаго с сыном, Юрья Несвежьскаго». Відаць, кн. Святаслаў і Юрый мелі ўладанні ва Уладзіміра-Суздальскай зямлі, дзе, паводле «Спіса рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» канца 14 ст., знаходзіліся гарады «Шумьскыи, Несвежьскыи». У ВКЛ у 14—16 ст. існавалі князі *Несвіцкія*, якія мелі г. Несвіч на Валыні (цяпер у Луцкім р-не Украіны). Беларускі Нясвіж і яго ўладальнікі вядомы з сярэдзіны 15 ст. У 1492 вял. князь літоўскі Аляксандр падараваў двор Нясвіж з с. Круты Бераг і Чучэвічы П.Я.Мантыгірдавічу. У 1-й пал. 16 ст. маёнтак перайшоў да Радзівілаў. У 1547 М.Радзівіл Чорны атрымаў ад імператара Карла V княжацкі тытул Свяшчэннай Рымскай імперыі («князь на Алыцы і Нясвіжы»), які ў 1549 прызнаны вял. князем літоўскім. З гэтага часу да Нясвіжскага маёнтка Радзівілаў ужывалася назва Н.к. У пач. 1560-х г. у Н.к. праведзена валочная памера. М.Радзівіл Чорны зрабіў невял. зямельныя набыцці ў ваколіцах Нясвіжа (землі с. Ліпа). У буйную латыфундыю Н.к. ператварыў сын Чорнага — М.К.*Радзівіл* Сіротка. У 1566—87 ён набыў у прыватных уласнікаў Лі-

пу, Свержань, Алекавічы, Лань, Кукавічы, Юшкавічы, Задзвею, Быхаўшчыну, Чанавічы, Салтанаву Гаць і інш. У 1568—69 да яго ў спадчыну перайшло і далучана да Н.к. Мірскае графства. У 1587 гэта латыфундыя падзялялася на 7 ключоў (Нясвіжскі, Мірскі, Свержанскі, Быхаўшчынскі, Чанавіцкі, Салтанаўскі, Затур'янскі), налічвала каля 40 сёл. У 1587—1602 набыты і далучаны да Н.к. Белікі, Кунаса, Мікалаеўшчына, Гарадзея, Магільна, Лунін, Андрушы, Атцэда і інш. На аснове Н.к. ў 1586 створаны буйны маярат — Нясвіжская ардынацыя, правы на якую перадаваліся ў спадчыну старэйшаму прадстаўніку Радзівілаў па мужчынскай лініі. У далейшым княства расшыралася за кошт новых набыццяў. У пач. 17 ст. яго памеры дасягнулі 5810 валок, тут было каля 3600 дымоў (25 тыс. чал. насельніцтва). М.К.Радзівіл Сіротка шмат зямель Н.к. аддаваў шляхце ва ўмоўнае трыманне (пераважна па 5 валок), з якіх шляхціц павінен быў выстаўляць у войска вершніка. Без усялякіх умоў былі падараваны землі Нясвіжскаму езуіцкаму калегіуму (с. Рудаўка, Ужанка), Мірскаму касцёлу (19 валок каля Міра, с. Возера), Нясвіжскаму бенедыкцінскаму кляштару (с. Гавязна) і інш. У Нясвіжы знаходзіўся замкавы суд, якому падлягала ўсё насельніцтва, у т.л. шляхта.

*Літ.*: Jakubowski J. Czy istnieli kniaziowie nieświescy? // Ateneum Wileńskie. 1923. № 1; Siekierski M. Landed wealth in the Grand Duchy of Lithuania: the economic affairs of princ Nicholas Christopher Radziwiłł (1549—1616) // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991—92. T. 20—21.

***Валерый Пазднякоў.***

**Нясвіжская балетная школа.** Дзейнічала ў 1758—90(?). Створана М.К *Радзівілам* Рыбанькай пры *Нясвіжскім тэатры Радзівілаў*. Рыхтавала для тэатра артыстаў балета з дзяцей прыгонных. Кіраўнікі Л.М.Дзюпрэ (1758—60), Я.Аліўе (з 1762), А.Лойка (з 1779), Г.Петынеці (з 1780). У кантракце, заключаным 3.3.1758 з Дзюпрэ на 3 гады, было запісана, што «ён будзе таксама вучыць васьмярых дзяцей і маладых людзей для балета ў тэатры». У «Дыярыушы» Радзівіла 9.12.1759 адзначана: «Упершыню хлопчыкі і дзяўчынкі выконвалі балет, добра ў іх атрымлівалася». Першы балет з удзелам навучэнцаў школы — «Балет з Арлекінам».

*Літ.*: Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983.

**Нясвіжская друкарня.** Дзейнічала ў Нясвіжы ў 16 і 18 ст. 1) Друкарня 16 ст. заснавана М.*Кавячынскім* і Л.*Крышкоўскім*; ідэйным кіраўніком у першыя гады яе існавання быў С.*Будны*. Першая на тэр. Беларусі друкарня, якая карысталася кірылаўскімі шрыфтамі. Друкар кірылічных выданняў невядомы. У 1562 выдадзены творы Буднага: «Катэхізіс» (першая на Беларусі кніга на бел. мове) і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (не збярогся). У 1563—71 на польскай і лацінскай мовах надрукавана 11 выданняў, пераважна палемічная пратэстанцкая публіцыстыка. Друкар Д.*Ланчыцкі*. Спыніла дзейнасць паводле загаду М.К.*Радзівіла* Сіроткі. Апошняе выданне — «Біблія» ў перакладзе на польскую мову Буднага — дадрукавана ў 1572 у Заслаўі ці ў маёнтку Кавячынскіх у Уздзе. Маёмасць друкарні ў 1572 купіў Я.С.Кішка, які заснаваў *Лоскую друкарню*. Большасць кніг Н.д. аформлена проста, без ілюстрацый. Ужываліся наборны арнамент, разнастайныя шрыфты, ініцыялы з дэкаратыўна-раслінным фонам. У мастацкім аздабленні кірылаўскіх кніг выразна прасочваецца сувязь з друкарскімі традыцыямі Ф.*Скарыны*. 2) Друкарня




Да арт. **Нясвіжская друкарня**. Біблія ў перакладзе С.Буднага (Нясвіж). 1570—72. Тытульны ліст.




Да арт. **Нясвіжская друкарня**. Ноты з катэхізіса Д.Ланчыцкага. Нясвіж. 1563.

1750—90-х г. заснавана Радзівіламі. У 1751 падаравана мясцоваму калегіуму езуітаў. Гравёрам працаваў Г.*Ляйбовіч*. Надрукавана каля 70 белетрыстычных, рэлігійных, палемічных і вучэбных твораў, панегірыкаў на польскай і лацінскай мовах., у т.л. «Пра жыццё і справы Аляксандра Вялікага» Курцыя Руфа (1763), «Жыццё і ерасі Вальтэра» Ф.Нано (1781), «Артыкулы вайсковыя» (1754), альбом медзярытаў «Выявы роду князёў Радзівілаў» (1758, уключае 165 гравюр на медзі).

*Літ.*: Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984. С. 170—175; Сапега Т. Гісторыя друкарскай дзейнасці Радзівілаў у Нясвіжы // Беларускі фестываль камернай музыкі «Музы Нясвіжа» — 10 год разам. Мн., 2005.

***Георгій Галенчанка.***

**Нясвіжская дывановая мануфактура.** Заснавана ў 1752 у прадмесці Нясвіжа Альбе ўладальнікам горада М.К.*Радзівілам* Рыбанькай як мастацкая майстэрня. У ёй працавала некалькі ткачых (тапісерак) мясцовага паходжання. У кожнай з іх было па 4—5 памочніц-дзяўчат, якія пасля навучання таксама станавіліся майстрыхамі.

Мяркуецца, што майстэрня была арганізавана для выканання разам з аналагічнай у Мірскім замку (адкрыта ў 1747) задуманай Рыбанькам серыі шпалераў са сцэнамі з гісторыі роду Радзівілаў. У 1757 яшчэ адна майстэрня створана ў Камянцы. У 1762 усе майстэрні пераведзены ў Карэлічы, дзе праца над шпалерамі прадоўжана (гл. *Карэліцкія шпалеры*).

**Нясвіжская капэла Радзівілаў**, прыдворны аркестр князёў Радзівілаў у Нясвіжы ў 1724—1809. Заснавана К.М.*Радзівілам* Рыбанькай. Задавальняла патрэбы рэзідэнцыі — іграла ў час баляў, свят, парадаў, касцельных службаў, з 1746 — і тэатральных паказаў. Выступала таксама ў загарадным палацы ў *Альбе*, суправаджала выезды ў радзівілаўскія маёнткі Белая, Мір, Жоўква, Алыка. Да 1746 мела камерны характар і складалася з нямногіх замежных музыкантаў (італьянцаў, немцаў, чэхаў), пазней склад яе расшырыўся (пераважалі палякі, беларусы і літоўцы). У 1751 пры капэле адкрыта *Нясвіжская музычная школа*. У 1733—80 сярод найб. вядомых музыкантаў капэлы — прыгонны Мацей з Карэліч (скрыпка), Ф.Яжомбек, Я.Баэрт і Я.Б.Сухенгаўз (клавіцымбалы), Кёнітцэр (флейта), Я.К.Фішэр (габой), Нойверт (арфа), Ф.Хофман (фагот), Вентцэль (валторна), Ю.Кагут (лютня) і інш. Капельмайстры — скрыпачы Е.А.Бакановіч (з 1749) і прыгонны Я.Цэнціловіч (з 1751), дырыжоры Ф.Вітман (з 1756), Я.Шоль (клавесін, з 1761), Д.Кёрнер (з 1770) і інш. У 1780 К.С.*Радзівіл* Пане Каханку запрасіў першакласных музыкантаў Дж.Альберціні (клавесін; капельмайстар у 1781—84), Дж.Канстанціні (скрыпка), І.Фляйшмана (віяланчэль), Я.Дусіка (фартэпіяна), Я.Д.*Голанда* (клавесін), увёў у капэлу спевакоў В.Нікаліні, А.Каланзака, А.Данезі, спявачак Герман, К.Вертэр. Апошні капельмайстар мясцовы музыкант-валтарніст А.Александровіч (1804—08).

*Літ.*: Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983. С. 182—183, 189; Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992.

**Нясвіжская музычная школа.** Дзейнічала ў 1751—1809(?) пры *Нясвіжскай капэле Радзівілаў*. Рыхтавала выканаўцаў-інструменталістаў і вакалістаў для капэлы і *Нясвіжскага тэатра Радзівілаў*. У вучні бралі мяшчан і сялян з Нясвіжа і навакольных вёсак. Ігры на скрыпцы, віяланчэлі, флейце, габоі, фагоце, валторне, трубе, а таксама вакалу навучалі лепшыя музыканты і спевакі капэлы: Ф.Вітман (да 1780-х г.), Я.Д.*Голанд*, Я.Дусік, Дж.Альберціні, Я.Фляйшман, Дж.Канстанціні, В.Нікаліні (усе 1780-я г.) і інш. Мяркуюць, што ў Н.м.ш. атрымалі пачатковую музычную адукацыю вядомыя прыгонныя скрыпачы Я.Цэнціловіч і Мацей з Карэліч.

*Вера Масленікава.*

**Нясвіжская ратуша**, памяшканне магістрата Нясвіжа. Узведзена каля 1596 з цэглы на Рыначнай пл. Перабудавана ў 1752 у стылі позняга барока. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з 6-яруснай вежай (4 ніжнія чацверыкі, 2 верхнія васьмерыкі), завершанай гранёным купалам з ліхтаром. У 1836 пажарам знішчана завяршэнне вежы. У сярэдзіне 19 ст. чацверыкі накрыты пакатым шатровым дахам; асн. аб'ём — высокім кроквенным дахам з вальмай на паўд. тарцы. У 1990-я г. адноўлена ў першапачатковым выглядзе паводле праектнага плана і гравюры Т.Макоўскага канца 16 ст. Фасады амаль пазбаўлены дэкору. Узроўні ярусаў вежы і памяшканняў ратушы не супадаюць і злучаны драўлянымі сходамі. Абапал ратушы па даўжыні будынка сіметрычна размяшчаліся гандлёвыя рады. Паміж імі былі нешырокія праезды з арачнымі брамамі на тарцах. Ячэйкі-крамы былі адкрыты праёмамі ў бок праездаў; частка гандлёвых памяшканняў знаходзілася ў 1-м ярусе ратушы. У сярэдзіне 18 ст. гандлёвыя рады перабудаваны: прадоўжаны за будынак ратушы, абкружылі яе з 3 бакоў, утвараючы П-падобны ўнутраны замкнёны дворык; ячэйкі-крамы пераарыентаваны праёмамі да плошчы і прылеглых вуліц. Невысокія падоўжаныя карпусы гандлёвых радоў накрыты 1-схільнымі дахамі (са схілам у бок унутранага двара). Вулічныя фасады вырашаны ў выглядзе аркады, завершаны высокім атыкам. У дэкоры выкарыстаны прафіляваныя карнізы, абрамленні праёмаў, філянговыя нішы.

*Тамара Габрусь.*



Нясвіжская ратуша.

**Нясвіжская суконная мануфактура.** Дзейнічала ў 1752—1867. Заснавана М.К.*Радзівілам* Рыбанькай. Мела 3 будынкі для ткання сукна, пастрыгальню, валюшню ў вадзяным млыне каля Слуцкай брамы, фарбавальню, шпіхлер пад склад гатовай прадукцыі і сыравіны. Абсталяванне было звезена з княжацкіх фальваркаў і вёсак, у 1752 мелася 5 ткацкіх станаў, 3 сталы для стрыжкі, ванна для вымочвання сукна, 3 катлы для фарбавання, вял. валюшны кацёл і інш. У 1-й пал. 1750-х г. працавала да 6 майстроў-ткачоў, фарбавальшчык, пастрыгач. Ім дапамагалі «хлопцы» з мясцовых мяшчан (да 11 чал.). Дзяўчат-прадзільшчыц прымусова набіралі з княжацкіх уладанняў (да 37 чал.), спачатку на 3 месяцы ў год, потым працавалі стала. Рабочы дзень складаў да 15 гадзін, плацілі натурай і грашыма. Частку воўны раздавалі для прадзення сялянам у вёскі. Некаторыя майстры былі запрошаны з Германіі. У 1756 дзейнічала 25 ткацкіх станаў, працавала да 152 чал. Выробленае сукно ішло на патрэбы княжацкага двара, на продаж, выраблялася на заказ. У 1753—55 прададзена сукнаў на 35 тыс. злотых, у т.л. на 25 тыс. злотых на патрэбы царквы і радзівілаўскага войска. З 1765 пры мануфактуры дзейнічала капялюшная майстэрня.

*Літ.*: Kula W. Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku. Cz. 1—2. Warszawa, 1956; Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.

*Валерый Пазднякоў.*



**Нясвіжскі езуіцкі калегіум.** Дзейнічаў у Нясвіжы ў 1586—1773. Заснаваны ў 1584 М.К.*Радзівілам* Сіроткай, які падараваў калегіуму маёнтак Ліпск з мястэчкам і 5 вёскамі. Даходы калегіума ў 1603 складалі 1600, у 1639 — 6000, у 1749 — 5569 злотых. Корпус калегіума пабудаваны ў 1586—88 паводле планаў з Рыма, у 1593—99 павялічаны. У 1587—93 узведзены *Нясвіжскі касцёл Божага Цела* (архітэктар Я.М.Бернардоні). Нясвіжскія езуіты стварылі свае місіі ў Белай, Капылі, Крывошыне, Ліпску, Мікалаеве, Ужанцы; на базе іх місій узніклі таксама Бабруйская і Слонімская езуіцкія рэзідэнцыі, Менскі і Навагародскі езуіцкія калегіумы. У 1586 адкрыты класы граматыкі, потым — паэтыкі, рыторыкі і інш. У пач. 17 ст. было каля 300 вучняў. Пры Н.е.к. дзейнічалі: з 1610 муз. бурса, з 1620 канвікт (інтэрнат) для дзяцей збяднелай шляхты, з 1627 аптэка, з 1751 *Нясвіжская друкарня Радзівілаў*. Бібліятэка ў канцы існавання налічвала каля 15 тыс. тамоў. У 1773 калегіум са скасаваннем ордэна езуітаў пераўтвораны ў свецкую школу. Касцёл ператвораны ў парафіяльны. Інш. будынкі не захаваліся.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Коллегиумы Белоруссии XVII в. // Архитектурное наследство. М., 1969. Вып. 18; Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Спірыдонаў М. Акт аб заснаванні калегіі езуітаў у Нясвіжы (1584 г.) // Nieśwież: Historia. Kultura. Sztuka. Materiały konferencji naukowych w Nieświeżu (1994, 1997). Warszawa; Mińsk, 1998.

**Нясвіжскі замак**, ваеннае ўмацаванне і рэзідэнцыя князёў Радзівілаў у *Нясвіжы*. З пач. 16 ст. вядома пра існаванне ў горадзе драўлянага замка. Новы замак, з выкарыстаннем каменных канструкцый, закладзены кн. М.К.*Радзівілам* Сіроткай у 1583. У пачатку будаўніцтва (да 1599) удзельнічаў італьянскі архітэктар Дж.*Бернардоні*. Замак меў у плане форму чатырохвугольніка памерамі 170 х 120 м, быў абкружаны высокім земляным валам з бастыёнамі па вуглах, вадзяным ровам (унутранае кальцо), шырокай дарогай з невысокім земляным насыпам (гласісам) з вонкавага боку і штучнымі вадаёмамі на р. Уша (вонкавае кальцо). Вал вышынёй да 20 м быў абмураваны каменем, уверсе пераходзіў у мураваны бруствер з дадатковымі ўмацаваннямі. Унутры вала былі мураваныя стайні і 4 патаемныя ўваходы. У 17 ст. па вуглах бастыёнаў пабудаваны 4 абарончыя вежы (вядомы па інвентарах). Падыход да замка з 3 умацаваны трохвугольным шанцам, да якога вялі 2 пад'язныя дарогі. Уздоўж гал. восі знаходзіліся мураваная брама з расоўным мостам і 3-павярховы палац з 8-ureннымі вуглавымі вежачкамі. Злева ад брамы стаяў 2-павярховы гасп. корпус, справа — 3-павярховая казарма з вял. дазорнай вежай. У 1706 замак разбураны шведамі. Адноўлены і перабудаваны пасля 1726 архітэктарам К.Ждановічам (у 1740 пабудаваў таксама палацавую капліцу). У 18 ст. ў будаўніцтве ўдзельнічалі архітэктары М.Педэці (у 1748—52), М.Фларыяновіч (1775—78), К.Спампані (1778—79), А.Лоцы (1783). Мураваныя бастыёны заменены землянымі ўмацаваннямі. Пры перабудове гал. палацавага корпуса надбудаваны 4-ы паверх, завершаны трохвугольным франтонам з рэльефным стукавым дэкорам. Перабудаваныя бакавыя карпусы злучаны з галоўным 3-павярховымі жылымі будынкамі, а з уязной брамай (у 2-й пал. 18 завершана вежай) — галерэямі. Паводле інвентару 1767, замак складаўся з палаца і дапаможных карпусоў абапал уязной брамы. Злева і справа ад замкавай брамы па-за межамі ўмацаванняў каля ставоў былі 2 комплексы жылых, гасп., і вытворчых пабудоў (жыллё прыслугі, свірны, стайні, вазоўні, парахавая і карэтная майстэрні, кузня і інш.). У замкавых бастыёнах былі арсеналы і каморы. З 1945 у Н.з. працаваў санаторый. З 2001 вядзецца рэстаўрацыя замка.



**Нясвіжскі замак**.



**Нясвіжскі замак**. Малюнак Н.Орды.

*Літ.*: Markowski F. Zamek Mikołaja Krzysztofa Radzwiłła Sierotki w Nieświeżu // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki. 1964. Z. 2; Gruszecki A. Fortyfikacja zamku w Nieświeżu // Там жа. 1965. Z. 2; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замки Белоруссии. Мн., 1987; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991; Bernatowicz T. Miles christianus et



peregrinus: Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998; Я г о ж. Monumenta variis Radivillorum: Wyposażenie zamku nieświeskiego w świetle źródeł archiwalnych. Cz. 1: XVI—XVII weku. Poznań, 1998.

**Нясвіжскі кадэцкі корпус** (ш к о л а, а к а д э м і я), ваенная навучальная ўстанова ў Нясвіжы ў 18 ст. для падрыхтоўкі кадраў войска Радзівілаў — міліцыі. Заснаваны вял. гетманам ВКЛ М.К.*Радзівілам* Рыбанькай. Паводле яго «Пастановы, служачай да адукацыі кадэцкага корпуса» ад 25.5.1747, на навучанне прымаліся 14-гадовыя падлеткі са шляхты. Выкладаліся французская, нямецкая, лацінская, рус. мовы, геаметрыя, матэматыка, цывільная і вайсковая архітэктура, маляванне, айчыннае права, айчынная і агульная гісторыя. Кадэтаў абучалі верхавой яздзе, фехтаванню, танцам. Вучні павінны былі размаўляць паміж сабой на замежных мовах. Яны адбывалі вартавую службу. У ліст. 1751 было 13 вучняў. Відаць, корпус заняпаў у 1750-я г. Адроджаны К.С.*Радзівілам* Пане Каханку ў 1767. Паводле яго інструкцыі ў корпус прымалі ўжо адукаваных падлеткаў — дзяцей мяшчан з радзівілаўскіх гарадоў і шляхецкую моладзь (у інш. кадэцкія карпусы краіны прымалі толькі шляхту). Меркавалася набраць 48 чал., але фактычна было значна менш (у кастр. 1770 — 17 кадэтаў). Выкладчыкамі былі пераважна немцы, а таксама кадэты папярэдніх гадоў набору. Выкладаліся французская, нямецкая мовы, матэматыка, геаметрыя, логіка, маляванне, артылерыя, архітэктура. Корпус месціўся ў Нясвіжскім замку. Кадэтам штомесяц выплачвалася па 24 злотыя. У сярэдзіне 1770-х г. корпус заняпаў.

*Літ.*: K o ś c i a ł k o w s k i S. Kilka szczegółów o korpusie kadetów w Nieświeżu. Wilno, 1912; L e c h M.J. Milicje Radziwiłłów jako oręż feudałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki. Białystok, 1962. T. 3.

*Валерый Пазднякоў.*

**Нясвіжскі касцёл Божага Цела**, першы помнік архітэктуры барока на тэрыторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Пабудаваны ў 1587—93 італьянскім дойлідам езуітам Дж.М.*Бернардоні* на месцы мураванага фарнага касцёла, закладзенага ў 1581 і разбуранага ў 1586. У 1586—87 створаны праект



**Нясвіжскі касцёл Божага Цела.**

Н.к.Б.Ц. з улікам патрабаванняў езуітаў, запрошаных у Нясвіж у 1582 кн. М.К.*Радзівілам* Сіроткай. Краевугольны камень асвячоны 14.9.1587 біскупам віленскім Ю.Радзівілам, касцёл асвячоны 7.10.1601 папскім нунцыем К.Рангоні, неаднаразова аднаўляўся пасля войн і пажараў у 17—20 ст. У архітэктурна-мастацкім вырашэнні і прысвячэнні касцёла закладзена ідэалагічная праграма контррэфармацыі, выпрацаваная Трыдэнцкім саборам. Паводле фундацыі належаў *Нясвіжскаму езуіцкаму калегіуму* і парафіі, адначасова быў фамільнай пахавальняй Радзівілаў. Пасля скасавання ордэна езуітаў булай рымскага папы Клімента XIV у 1773 стаў фарным.

Паводле архітэктонікі касцёл — першая ў Рэчы Паспалітай 3-нефавая 6-слупавая крыжова-купальная базіліка з планам у верхнім сячэнні (пад купалам) у выглядзе выцягнутага лацінскага крыжа, з паўкруглым алтарным завяршэннем цэнтр. нефа і гал. фасадам у стылі барока. Мае шэраг адметнасцей параўнальна з першаўзорам архітэктуры барока — касцёлам «Іль Джэзу» ордэна езуітаў у Рыме (1568—84, архітэктары Д.Віньёла, Д. дэла Порта). Змураваны з цэглы, атынкаваны, мае пластычную архітэктурную апрацоўку ўсіх фасадаў, адкрытыя бакавыя нефы. Гал. фасад адпаведна вышыні нефаў падзелены на 2 ярусы, якія злучаны крывалінейнымі падпорнымі сценкамі накшталт валют, завершаны трохвугольным франтонам. У дэкоры выкарыстаны плоскія адзінкавыя пілястры і антабленменты дарычнага ордэра, сандрыкі, філёнгі, пінаклі, паўкруглыя нішы-табернакулы са скульптурамі святых. Першапачаткова па баках фасада знаходзіліся невял. круглыя вежачкі з кручанымі ўсходамі на эмпоры ў 2-м ярусе бакавых нефаў, прызначаныя для вучняў школы езуітаў (ліквідаваны пры рамонце ў 1705). У кампазіцыі дамінуе высокі самкнуты купал, завершаны фігурным ліхтаром, узведзены, відаць, архітэктарам з Падуі Д.Брызіё ў 1592. Падкупальны квадрат фарміруюць 4 магутныя падпружныя аркі, якія з дапамогай ветразяў падтрымліваюць светлавы барабан купала (дыяметр 10 м). Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі без падпружных арак, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі. Каля трансепта за межы базілікі сіметрычна выступаюць гранёныя ў плане купальныя капліцы святых Пятра і Андрэя, прызначаныя адпаведна для ганаровых пахаванняў пробашчаў касцёла і парафіян.

Гіст.-мастацкую каштоўнасць мае пластычнае аздабленне інтэр'ера. Гал. алтар фундаваны клецкім ардынатам А.Радзівілам, пазней некалькі разоў перарабляўся. Аўтар скульптурнай пластыкі алтара сярэдзіны 18 ст. — архітэктар Маўрыцыё Педэці. Вял. алтарная карціна «Тайная вячэра» створана прыдворным мастаком Радзівілаў Ф.К.Д.Гескім, відаць, разам з сынам. У рамёнах трансепта размешчаны алтары Св.Крыжа і Маці Божай Ларэтанскай, створаныя па фундацыі Радзівіла Сі-



роткі, нахіленыя калоны якіх сімвалізуюць часовы адыход сям'і Радзівілаў ад каталіцтва. У паўн. крыле трансепта скульптурныя надмагіллі Радзівіла Сіроткі і 2 яго сыноў. Надмагілле 16-гадовага сына Сіроткі, памерлага ў Балонні, вызначаецца падабенствам да антычнага рымскага скульптурнага партрэта, аб'ёмнай пластыкай і паліхроміяй мармураў. Надмагілле Радзівіла Сіроткі ў выглядзе пілігрыма, выкананае амаль за 20 гадоў да смерці, і яго сына-немаўляці адпавядаюць мастацкім прынцыпам сарматызму, выкананы з шэрага пясчаніку ў плоскім рэльефе з рэнесанснай стрыманасцю і ўраўнаважанасцю ліній. Мураваныя хоры для аргана ўзведзены ў 1611—15 па фундацыі А.Скарульскага. Пластычнае ўбранне інтэр'ера дапаўняюць познабарочныя малыя алтары святых Ігнацыя, Францыска, Станіслава, Барбары, Кацярыны, Фларыяна, Роха і інш., выкананыя разьбярамі Міхалам Шыманоўскім і Янам Лежбахам у 18 ст.

Найб. актыўна мастацкае аблічча інтэр'ера фарміруе манументальны фрэскавы роспіс, які пакрывае скляпенні, сцены і слупы храма, створаны па ініцыятыве кн. М.К.*Радзівіла* Рыбанькі пад кіраўніцтвам архітэктара Казіміра Ждановіча ў 1750—53. Фрэскавы цыкл мае строгую праграму і іерархію сюжэтаў, якую распрацаваў тэолаг Я.*Пашакоўскі*. У прасценках светлавога барабана і на купале ў 2 ярусы прадстаўлены выявы святых, якіх шануюць як зах., так і ўсх. галіны хрысціянства: Аўгусцін, Васіль Вялікі, Іаан Златавуст і інш. На ветразях купала размешчаны выявы 4 евангелістаў з атрыбутамі-сімваламі. Роспісы трансепта адлюстроўваюць ахвярнасць зямнога быцця Хрыста і Дзевы Марыі. Асн. хрысталагічны цыкл дапаўняюць старазапаветныя сюжэты і алегарычныя сцэны на скляпеннях базілікі, прасякнутыя павучальнасцю і перакапальнасцю ў палемічных канфесійных пытаннях. Тэалагічны акцэнт зроблены на кампазіцыі, размешчанай над прэсбітэрыем, дзе ў алегарычнай форме перададзены трыумф каталіцкай царквы над інш. канфесіямі. Манера роспісаў шматколерная, экспрэсіўная. Рухавыя постаці біблейскіх персанажаў у складаных ракурсах прадстаўлены ў аздабленні познабарочнага архітэктурнага стафажу, які нібыта разрывае рэальную прастору храма, стварае ілюзію яе бязмежнасці, знітаванасці з космасам. Манахромная размалёўка нясучых канструкцый у тэхніцы грызайль імітуе ордэрны архітэктурны дэкор. У 1900 створаны камітэт па капітальным рамонце касцёла і панаўленні фрэскавага роспісу. Першапачатковы фарбавы пласт захаваўся часткова на сцяне паўд. капліцы. У 1912 унутры святыні ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар паэта У.Сыракомлі.

Пад трансептам размешчана напаўпадземная крыпта-маўзалей, дзе знаходзіцца 71 саркафаг і шэраг пахаванняў у сценах прадстаўнікоў роду Радзівілаў (агульная колькасць 154, апошняе пахаванне А.Радзівіла адбылося 8.6.2000), сярод іх ёсць ганаровыя і ўмоўныя пахаванні. Як гіст.-культурная каштоўнасць касцёл мае фундаментальнае значэнне ў пашырэнні ў ВКЛ каталіцкай канфесіі, станаўленні стылю барока і ўвядзенні праектнай практыкі ў манументальным будаўніцтве ўсёй Рэчы Паспалітай. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 141, 531.

*Літ.*: Taurogiński B. Nieśwież. Warszawa, 1937; Квитницкая Е.Д. Коллегиумы Белоруссии XVII в. // Архитектурное наследство. М., 1969. Вып. 18; Paszenda J. Kościół Bożego Ciała (pojezuicki) w Nieświeżu // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki. 1976. Z. 3; Гаршкавоз В. Да пытання аб мастацкіх асаблівасцях інтэр'ера фарнага касцёла Нясвіжа // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985; Хадыка Ю.В. Сістэма роспісаў нясвіжскага касцёла // Помнікі мастацкай культуры: Новыя даследаванні. Мн., 1985; Церашчатава В.В. Старажытны беларускі жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986; Ciechanowiecki A.S. Nieśwież międzynarodowy ośrodek kultury na Białorusi. Warszawa, 1994; Габрусь Т.В. Появление проектного чертежа в зодчестве Белоруссии XVI в. // Архитектурное наследство. М., 1996. Вып. 41; Яе ж. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура бел. барока. Мн., 2001.

***Тамара Габрусь.***

**Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак.** Існаваў у Нясвіжы ў 1591—1877. Заснаваны М.К.*Радзівілам* Сіроткай з жонкай Эльжбетай Яўфіміяй з Вішнявецкіх. Актамі фундацыі 1591—95 і 1602 яны далі бенедыкцінкам фальварак Гавязна з в. Ахрымавічы, Вязавец, Зарэчча, Петухоўшчына (170 валок зямлі), а таксама тэрыторыю ў 11 моргаў у



Званіца **Нясвіжскага кляштара бенедыкцінак**.

паўд.-зах. частцы горада і 9 тыс. злотых на пабудову кляштара. Першыя манашкі прыбылі з Хелмна (Польшча), прыярыса М.Мартэнская атрымала папскі прывілей на змякчэнне суровага статута ордэна. Пазней нясвіжскія бенедыкцінкі сталі першымі насельніцамі кляштараў у Вільні, Коўне, Менску, Оршы, Смаленску. Сярод манашак былі прадстаўніцы вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў (Войнаў, Нарбутаў, Радзівілаў, Слушкаў, Тышкевічаў, Халецкіх і інш.), якія пры паступленні ў кляштар павінны былі ўносіць грашовы «пасаг». У 1627 бенедыкцінкі купілі фальварак Вялешын і в. Талядавічы. Крыстына Эўфемія Радзівіл (прыярыса ў 1632—58) адсудзіла ў Завішаў на карысць кляштара в. Лучыца і Слабада. Грашовыя наданні кляштару працягваліся Радзівіламі і пазней. У Н.к.б. пастаянна выхоўвалася 25 свецкіх паненак, якіх манашкі навучалі мовам, музыцы, мастацкаму шыццю і інш. У 1804 былі 22 выхаванкі, 48 чал. жаночай прыслугі, 16 рамеснікаў; у 1828 — 33 манашкі, пераважна з Мінскага і Навагрудскага пав.; бібліятэка мела 437 кніг на польскай і 79 на лац. мове; былі музычныя інструменты: 5 скрыпак, басэтля, 2 флейты. У 1784 кляштар наведаў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Корпус кляштара змураваны ў 1593—96, касцёл св. Эўфеміі (архітэктар Я.М.*Бернардоні*) асвячоны ў 1595.



**Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак.** Малюнак Н.Орды.

Вежа над касцёлам пабудавана ў 1720-я г., уваходная званіца — у 1760-я г. У 1877 кляштар скасаваны, апошнія 20 манашак высланы ў Вільню і Гродна, будынкі аддадзены пад настаўніцкую семінарыю. У 1920—45 кляштар зноў дзейнічаў. Цяпер у комплексе Н.к.б. размешчаны педагагічны каледж.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Нясвіжскі кляштар бернардзінцаў.** Дзейнічаў у Нясвіжы ў 1598—1864. Заснаваны М.К.*Радзівілам* Сіроткай па волі сваёй памерлай жонкі Эльжбеты Яўфіміі з Вішнявецкіх, якая завяшчала на пабудову кляштара даход ад маёнтка Карэлічы. Радзівіл перадаў бернардзінцам даход ад маёнтка Чанавічы, агарод у 3 моргі і 20 прутоў, 28 моргаў лугоў і 5 валок, 6 моргаў лесу ў наваколлях Нясвіжа. У 1617 Я.Ю.Радзівіл даў кляштару млын, сажалку і лес каля Пагарэлага. Касцёл св. Кацярыны (названы ў памяць памерлай дачкі М.К.Радзівіла, у 1603 асвячоны віленскім біскупам Б.Войнам) і корпус кляштара пабудаваны па праекце Я.М.*Бернардоні*. У 17 ст. да касцёла прыбудаваны капліцы св. Францыска і св. Ганны. З 1628 пры кляштары працавала школа тэалогіі, у 1654 заменена на школу філасофіі. У 1655 кляштар спалены, да 1662 адбудаваны. У 1731 школа адноўлена, дзейнічала да 1864. У касцёле знаходзіліся надмагіллі фундатараў з вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў. Статуя «Укрыжаванне» лічылася цудадзейнай. Пры касцёле дзейнічалі 3 брацтвы. У 1793 касцёл і корпус кляштара цалкам згарэлі, у пач. 19 ст. касцёл нанава пабудаваны ў класіцыстычным стылі, вуглавы камень закладзены біскупам Дэдэркам у 1802. У 1804 у кляштары было 15 манахаў, 12 студэнтаў, у бібліятэцы — 1199 кніг. У 1864 нясвіжскія бернардзінцы абвінавачаны ў падтрымцы паўстання 1863—64 і кляштар быў зачынены (будынкі перададзены ваеннаму ведамству). Манахаў выслалі ў Крэцінгу (Літва), Кімбараўку (прыгарад Мазыра), Гарадзішча і ў Нясвіжскі кляштар дамініканцаў. У 1870 касцёл пераабсталяваны пад Георгіеўскую царкву, у 1950-я г. разбураны. Жылы корпус захаваўся.

*Літ.*: Klasztory bernardyńskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria Zebrzydowska, 1985. S. 228—233.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Нясвіжскі кляштар дамініканцаў.** Дзейнічаў у Нясвіжы ў 1672—1877. Заснаваны ў 1672 падчашым смаленскім Б.Баканоўскім і М.К.*Радзівілам*, які выдзеліў месца для пабудовы кляштара. У 1842 кляштару належала 268 валок зямлі і 12 тыс. руб. капіталу. 26.8.1680 асвячоны мураваны, 3-нефавы, з 2-вежавым фасадам касцёл Яна Хрысціцеля. Яго скляпенні і сцены былі размаляваны Ю.К.Гескім. У алтары знаходзіўся абраз Маці Божай Ружанцавай, які лічыўся цудатворным. Да касцёла прымыкаў 2-павярховы мураваны корпус кляштара. Пасля закрыцця ў 1773 Нясвіжскага езуіцкага калегіума дамініканцы ўтрымлівалі пры сваім кляштары гімназічную школу, пазней павятовую (зачынена ў 1835). У апошні перыяд існавання кляштара сюды адпраўлялі ксяндзоў, якія не хацелі правіць імшу на рус. мове. У 1877 скасаваны, перабудаваны на настаўніцкую семінарыю. Разбураны пасля Вял. Айчыннай вайны.

*Літ.*: Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Пер. з пол. Мн., 1992.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Нясвіжскі тэатр Радзівілаў,** прыдворны тэатр князёў Радзівілаў у Нясвіжы ў 1746—91. З 1746 пры княгіні Ф.У.*Радзівіл* існаваў як аматарскі: у спектаклях разам з прыгоннымі спевакамі, танцорамі, музыкантамі ўдзельнічалі члены княжацкай сям'і, шляхта, кадэты нясвіжскага корпуса (першы спектакль — «Узор справядлівасці»). Паказы ў суправаджэнні *Нясвіжскай капэлы Радзівілаў* адбываліся ў спец. будынку — «камедыенгаўзе» (пабудаваны ў 1747—48, арх. К.Ждановіч), які стаяў за замкам на беразе штучнага вадаёма на р. Уша. Паводле інвентару 1767, цэнтр. памяшканнем тэатра была вял. партрэтная зала, вырашаная амфітэатрам, у якой размяшчаліся ложы. Уздоўж адной з бакавых сцен стаяла доўгая лава. Сцены і столь былі аздоблены размаляванымі палатнянымі шпалерамі. Сцэна была адгароджана ад залы жоўтай тканай заслонай з выявамі герба Радзівілаў. З абодвух бакоў сцэны былі хоры для капэлы. Тэатральную залу асвятлялі 53 металічныя ліхтары. Спектаклі ставіліся таксама ў *Альбе* пад адкрытым небам у «зялёным тэатры» і ў палацы «Кансалярыя» (пабудаваны ў 1748, арх. М.Педэці, перабудаваны ў 1770-я г., арх. Л.Лутніцкі, рэстаўрыраваны ў 1809 М.Цэйзікам; не збярогся). Спектаклі ставіліся на польскай, італьянскай, нямецкай, французскай мовах. У рэпертуары творы Радзівіл: камедыі «Дасціпнае каханне» (1746), «Убачанае не мінае» (1749), «Гульня Фартуны» (1750), трагедыі «Золата ў агні» (1750), «Несумленнасць у пастцы» (1751), оперы «Сляпое каханне не зважае на вынікі» і «Шчаслівае няшчасце» (1752) і інш., перакладзеныя і перапрацаваныя Радзівіл творы Мальера, Вальтэра, балеты, пантамімы. У 1753—62 кн. М.К.*Радзівіл* Рыбанька папоўніў трупу нанятымі акцёрамі, стварыў пры капэле *Нясвіжскую музычную школу* (з 1751), *Нясвіжскую балетную школу* (з 1758) і аркестр нар. інструментаў (т.зв. «літоўскую музыку»), павялічыў прыдворную капэлу. У гэты перыяд тэатр набыў прафесійны характар і стаў прыдворным. Рэпертуар папоўніўся творамі Ф.У.Радзівіл, камедыямі Мальера, Вальтэра, С.Мыцельскага, В.Жавускага, італьянскімі і нямецкімі камічнымі операмі і балетамі. Тэатр вы-



язджаў у Слуцк (паміж 1755—59), Белую (1753, 1761), Жоўкву (1753), Алыку (1753, у 1755 працаваў у «новым тэатры»). Пры кн. К.С.*Радзівілу* Пане Каханку ў складзе тэатра (1762—64, 1777—86) была драматычная трупа акцёраў пад кіраўніцтвам Л.Пеpажынскага (з 1783); сярод акцёраў К.Аўсінскі, В.Ясінскі, Я.Закшэўскі, М.Вернер, М.Пеpажынская, Т.Маруноўская, М.Лазанская, а таксама група італьянскіх спевакоў, новы склад капэлы (44 чал.), балет (больш за 20 прыгонных танцораў, балетмайстры з 1750 Л.Дзюпрэ, з 1761 А.Пуціні, з 1762 Я.Аліўе, з 1779 А.Лойка і Г.Петынеці). З 1786 тэатр працаваў нерэгулярна. За 50 гадоў існавання ён перажыў эвалюцыю ад аматарскага да прафесійнага, стварыў свой арыгінальны рэпертуар, падрыхтаваў вял. групу прыгонных артыстаў-беларусаў, многія з якіх пазней працавалі ў прафесійных гар. тэатрах і капэлах. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 151.

*Літ.*: Барышаў Г.І. Тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку // Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1; Kochańczyk A. Teatr Urszuli Radziwiłłowej w Nieświeżu // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003.

**Нясецкі** (Niesiecki) Каспар (31.12. 1682, Вял. Польшча—9.7.1744), польскі гісторык, генеалог. Вучыўся ў езуіцкіх навучальных установах у Кракаве, Любліне, Луцку, Кросне, Яраславе. У 1699 уступіў у ордэн езуітаў, з 1710 святар. Выкладаў у навучальных установах у Быдгашчы, Хойніцах, Калішы. З 1715 прапаведнік у Раве Мазавецкай, Кракаве, Любліне, Калішы, Львове, Краснаставе, з 1724 загадваў у Краснаставе езуіцкай духоўнай семінарыяй і касцёлам (з перапынкам у 1740—41, калі ўзначальваў шляхецкі канвікт у Сандаміры). Склаў гербоўнік «Карона польская» («Korona polska», т. 1—4, Львоў, 1728—43), генеалагічныя артыкулы якога заснаваны на багатым, крытычна апрацаваным архіўным матэрыяле. Праца змяшчае дзярж. гербы Польшчы і ВКЛ, ваяводстваў, спісы манархаў Рэчы Паспалітай, сенатараў, міністраў, маршалкаў Пасольскай Ізбы і трыбуналаў. Асн. месца адведзена вопісу шляхецкіх гербаў і радаводаў, у т.л. бел. родаў. Звесткі некаторых артыкулаў выклікалі судовыя спрэчкі з магнатамі і шляхтай. З часам праца набыла аўтарытэт дакументальнай крыніцы і выкарыстоўвалася для пацвярджэння шляхецкіх правоў у рас. і аўстрыйскай частках былой Рэчы Паспалітай пасля яе падзелаў. У 19 ст. гербоўнік з дапаўненнямі А.Нарушэвіча, І.Красіцкага, І.Лялевеля, звесткамі з інш. крыніц перавыдадзены Я.Н.Баброўскім пад назвай «Польскі гербоўнік» («Herbarz polski», т. 1—10, Лейпцыг, 1839—45; перавыд. 1979).

***Валерый Пазднякоў.***

**нястаннае**, у ВКЛ штраф на карысць істца і суда за няяўку на суд па першай позве. Н. плаціў пазваны, калі ён не мог спаслацца на сур'ёзную прычыну, якая перашкодзіла з'явіцца. Паводле Статута ВКЛ 1588, Н. складала 4 капы (г.зн. 240) грошаў істцу і 1 капу — суду.

**Нячай** Іван (?—пасля 1669), дзеяч казацка-сялянскага руху на Украіне і Беларусі ў сярэдзіне 17 ст., беларускі палкоўнік Запарожскага войска. Паплечнік Б.*Хмяльніцкага,* муж яго дачкі Сцепаніды. Паходзіў з «рускай» шляхецкай сям'і з Мсціслаўскага ваяв., якая ў 2-й чвэрці 17 ст. перасялілася на Кіеўшчыну. У 1649 у складзе старшыны Брацлаўскага палка свайго старэйшага брата Данілы. З 1650 прадстаўляў інтарэсы ўкр. гетмана ў Бахчысараі пры двары крымскага хана Іслам-Гірэя. У 1654, пасля пагаршэння адносін Хмяльніцкага з новым ханам Махмед-Гірэем, Н. вярнуўся на Украіну. З 1655 на Беларусі, сотнік у войску наказнога гетмана І.*Залатарэнкі*, прымаў удзел у аблозе Старога Быхава. Пасля смерці Залатарэнкі ўвосень 1656 Н. стаў чавускім і навабыхаўскім палкоўнікам. 29.1.1656 Хмяльніцкі прызначыў Н. палкоўнікам беларускім. Імкненне ўкр. казакоў дзейнічаць на Беларусі незалежна ад рас. ваявод выклікала супярэчнасці паміж рас. ваеннай адміністрацыяй і казакамі Н. У маі 1656 абвінавачаны рас. ўладамі ў вызнанні каталіцтва, аднак у выніку праведзенага следства выявілася неабгрунтаванасць абвінавачванняў. У 1657 Н. авалодаў Старым Быхавам. Полк Н. імкліва папаўняўся сялянамі, аднак сярод сотнікаў Н. было нямала прадстаўнікоў шляхецкага стану. Так, у чэрв. 1656 у палку Н. апроч казацкіх загонаў было некалькі харугваў з мясц. шляхты пад камандаваннем сотніка Адама Кашанскага. Н. намінальна падпарадкоўваўся рас. ўраду, аднак праводзіў палітыку, выгадную гетманскай Украіне, накіраваную на пашырэнне яе тэрыторыі за кошт паветаў ВКЛ. Спробы рас. ўрада вывесці яго войскі з Беларусі поспеху не мелі, і ў 1657 пачаліся баявыя дзеянні паміж казакамі Н. і рас. войскам. У вер. 1658 згодна з умовамі *Гадзяцкага дагавора 1658* Н. разам з гетманам І.Выгоўскім адкрыта перайшоў на бок Рэчы Паспалітай, кантралюючы гарады Стары Быхаў, Рослаў і Чавусы. У ліст. 1658 Н. зрабіў 2 няўдалыя спробы ўзяць Магілёў. У снеж. 1658 пацярпеў паражэнне ад рас. войск каля в. Благовічы Мазырскага пав., у сак.—крас. 1659 быў двойчы разбіты каля Мсціслава, пасля чаго зачыніўся ў Старым Быхаве. У ліп. 1659 рас. войскі ўзялі горад у аблогу і ў ноч на 4.12.1659 «цераз здраду» авалодалі ім. Н. трапіў у палон і разам з братам, сотнікам Бел. палка Юрыем, быў адпраўлены ў Маскву. Ад смяротнага пакарання Н. выратавала асабістае заступніцтва Ю.Хмяльніцкага. 6.10.1660 сасланы ў Табольск. Вызвалены пасля падпісання Андросаўскага перамір'я 1667. У 1669 Н. накіраваны на Украіну да гетмана П.Дарашэнкі ў якасці палкоўніка Літоўскага казацкага палка. Далейшы лёс невядомы. Паводле інш. звестак, заставаўся ў маскоўскай няволі да 1670, дзе неўзабаве памёр.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Белорусское казачество // Питания історії СРСР. Львів, 1957. Вып. 6; Мальцев АН. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974; Липинський В. Твори. Т. 3. Філадельфія, 1991; Горобець В.М. Іван Нечай та українсько-російські змагання за Білорусь (1656—1659 рр.) // Український історічний журнал. 1998. № 2.

***Станіслаў Чаропка.***





**Одэрборн** (Oderborn) Пауль (каля 1555, г. Барт у Зах. Памор'і—1604), дзеяч лютэранскай царквы ў ВКЛ, пісьменнік. З 1577 служыў прапаведнікам у Вільні, удзельнічаў у рэлігійных дыспутах і палемічнай перапісцы з прадстаўнікамі інш. канфесій ВКЛ, у т.л. з Я.*Ласіцкім*. У 1582 выдаў у Ростаку (Германія) на лацінскай мове трактат «Апавяданне пра рэлігію і звычаі рускіх», у якім выклаў свае ўражанні ад побыту і рэлігійнага жыцця беларусаў і рускіх, адным з першых сярод зах.-еўрапейскіх аўтараў ужыў назву «Белая Русь» у дачыненні да ПнУ Беларусі. Трактат О. перавыдаваўся разам з падобнай па назве і змесце працай Ласіцкага і ў складзе выданняў кампілятыўнага зместу. У 1587 у Гродне вітаў абранне каралём польскім і вял. князем літоўскім Жыгімонта III, атрымаў ад яго пасаду лютэранскага пастара ў Рызе. Пазней служыў пастарам у сталіцы Курляндыі Мітаве.

*Тв.*: De Russorum religione et ritibus narratio // Historiae ruthenicae scriptores exteri saeculi XVI. Beroline et Petropoli, 1842. T. 2.

*Алесь Белы.*

**ордэны** (ням. Orden ад лац. ordo шэраг, разрад), ганаровыя дзяржаўныя ўзнагароды за асобыя заслугі. Першы і вышэйшы О. Рэчы Паспалітай — О. Белага Арла (1705—95). Функцыяніраваў ён на аснове праекта О. Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Марыі 1632. Першае ўручэнне ордэнскіх знакаў у выглядзе залатых эмалевых нашыйных медальёнаў адбылося ў час спаткання Аўгуста II з Пятром I у Тыкоціне. У 1709 О. набыў выгляд нашыйнага крыжа з брыльянтамі, падобнага да французскага О. Св. Духа. З 1713 свецкія асобы насілі такі крыж на стужцы цераз левае плячо разам з шытай зоркай з брыльянтамі на левым баку грудзей, духоўныя асобы насілі нашыйны варыянт О., магістр — на ланцугу. З 1760-х г. крыж і зорка (шытая і каваная) былі без брыльянтаў. Ордэнскае свята прымяркоўвалася да дня імянін пануючага караля. Ордэнская стужка спачатку была белая з чырвонымі палосамі па краях, з 1713 — блакітная, дэвіз «Pro Fide, Rege et Lege» («За веру, караля і закон»). О. адзначана каля 900 асоб. О. святога Станіслава (1765—93) быў узнагародай за цывільныя заслугі. Статут патрабаваў ад ордэнскіх кавалераў фінансавых ахвяраванняў на дабрачыннасць. Ордэнскае свята адзначалася 8 мая. Стужка О. была чырвоная з белымі палосамі па краях. Свецкія асобы насілі крыж на стужцы цераз правае плячо з шытай зоркай на левым баку грудзей, духоўныя асобы — нашыйны варыянт. Дэвіз «Praemiando incitat» («Узнагароджваючы заахвочваю»). О. адзначаны 1774 асобы. Пасля адрачэння ад трона (1795) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі пэўны час трактаваў гэты О. як свой прыватны. О. Вайсковага крыжа (1792—94) спачатку меў выгляд медаля «Virtuti Militari» («Ваеннай доблесці») з серабра і золата (1792), пазней уведзены крыж і зорка. Фактычна існаваў аднаступенны О. (крыж або залаты медаль) і знак адрознення О. (сярэбраны медаль). Пазней гэты О. падзелены на 5 ступеняў (крыжы вялікі з зоркай, камандорскі шыйны, кавалерскі пятлічны, медалі залаты і сярэбраны). Яго статут быў складзены на ўзор аўстрыйскага вайсковага О. Марыі



Да арт. **Ордэны**. Урачысты ордэнскі строй кавалера ордэна св. Станіслава. 2-я пал. 18 ст.




Знакі **ордэнаў**: 1—2 — Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Марыі (праект, 1632); 2—3 — Белага Арла (медальён, 1705); 5—6 — Белага Арла (крыж, 1713); 7 — Белага Арла (крыж з рубінавага гарнітура Аўгуста II); 8—9 — св. Станіслава (крыж); 10—11 — Virtuti Militari (сярэбраны і залатыя медалі); 12 — Вайсковага крыжа.

Тэрэзіі. Першапачаткова ордэнская стужка была чырвоная з белымі паласамі па краі, пазней — цёмна-блакітная з чорнымі паласамі. У 1792 гэты О. адменены Таргавіцкай канфедэрацыяй, адноўлены Гарадзенскім соймам 23.11.1793.

*Літ.*: Sadowski H. Ordery i odznaki zaszczytny w Polsce. Warszawa, 1904; Łoza S. Ordery i odznaczenia polskie. Lwów, 1938; Wesolowski Z. Polisch orders, medals, badges and insignia military and civilian dekorations, 1705—1985. Washington, 1972; Bigoszewski W. Polskie ordery i odznaczenie. Warszawa, 1989.

***Іван Сінчук.***

**ордэны манаскія**, цэнтралізаваныя манаскія аб'яднанні ў каталіцкай царкве, дзейнасць якіх рэгламентуецца статутамі (рэгуламі), зацверджанымі папам рымскім. Маюць уласную арганізацыйную структуру. На чале ордэна стаіць генерал (генеральны магістр), пры якім ёсць капітул — калегія кіруючых асоб. Звычайна О.м. падначалены папе рымскаму і не падпарадкоўваюцца біскупам на месцах. Тэрытарыяльна падзяляюцца на правінцыі. Адрозніваюцца адзін ад аднаго традыцыйным ладам жыцця, мэтамі, закладзенымі сваімі заснавальнікамі і задачамі, вызначанымі папствам, а таксама колерам і кроем адзення. Маюць свае звычаі і абраднасць. Члены большасці О.м. жывуць у кляштарах. Старэйшым О.м. лічыцца ордэн *бенедыкцінцаў* (засн. каля 530). Па меры пашырэння хрысціянства павялічвалася колькасць О.м. і «спецыялізацыя» іх дзейнасці. У 11—12 ст. у сувязі з крыжовымі паходамі на Блізкі Усход узнік шэраг духоўна-рыцарскіх ордэнаў, члены якіх былі адначасова рыцарамі і манахамі: гаспітальеры (іааніты, гл. *Мальтыйскі ордэн*), *Нямецкі ордэн* (Тэўтонскі), а таксама *цыстэрцыянцы*. У 12—13 ст. узніклі жабрацкія ордэны: *аўгусцінцы, бернардзінцы, дамініканцы, кармеліты абутыя, францысканцы*. Рымская курыя выкарыстоўвала О.м. для барацьбы з ерасямі і для місіянерскай дзейнасці. О.м. мелі вял. ўплыў у ВКЛ у 16—18 ст. у перыяд Рэфармацыі і контррэфармацыі. У гэты час сюды прыйшлі новыя О.м.: *баніфратры, камедулы, кармеліты босыя, кацярынкі, рахіты, шарыткі*. Найб. ролю ў развіцці навукі і адукацыі адыгралі *езуіты* і *піяры*. На ўзор рымска-каталіцкіх О.м. у 17 ст. быў створаны грэка-каталіцкі ордэн *базыльян*. У 19 ст. дзейнасць большасці О.м. у Беларусі і Літве спынена, нешматлікія кляштары падначалены біскупам.

***Міхаіл Дабрынін.***

**Орлік** Піліп Сцяпанавіч (22.10.1672, в. Касута Ашмянскага пав.—1742), украінскі дзяржаўны дзеяч. З бел. шляхецкага роду герба «Навіна». Пасля смерці мужа ў *Хацінскай бітве 1673* з туркамі маці О. Ірэна Малахоўская пераехала з сынам у Кіеў. Вучыўся ў Кіева-Магілянскім калегіуме. Да 1702 служыў у Генеральнай вайсковай

канцыляры, у 1702—08 генеральны пісар. Пасля шлюбу з дачкой палтаўскага палкоўніка П.Герцыка атрымаў у пасаг значныя маёнткі. Паплечнік гетмана І.Мазепы, пасля Палтаўскай бітвы 1709 разам з ім і шведскім каралём Карлам XII уцёк у Турцыю. Там у 1710 пасля смерці Мазепы казацкай старшынай абвешчаны гетманам. Імкнучыся забяспечыць сабе падтрымку на Украіне, выпрацаваў праект канстытуцыі, якой мела кіравацца Украіна. Прадугледжвалася, што гетманскія паўнамоцтвы будуць абмежаваны, палепшаны стан простых людзей, захаваны асобы статус Запарожскага казацкага войска, дасягнута незалежнасць ад рас. дзярж. і царк. адміністрацыі. У 1711 разам з крымскімі татарамі ўдзельнічаў у паходзе на Украіну. У 1714—20 жыў у Швецыі, потым — у Германіі, Польшчы, Францыі, Турцыі. Аўтар «Дыярыуша», у якім даў свой радавод і падвёў вынікі сваёй дзейнасці, мемуараў.

*Літ.*: Скальковский А. Филипп Орлик и запорожцы // Киевская старина. 1882. № 4; Різниченко В. Пилип Орлик: (Гетьман-емігрант). Київ, 1918; Кресіна І., Кресін О. Гетьман Пилип Орлик і його Конституція. Київ, 1993; Перша Конституція України гетьмана Пилипа Орлика. 1710 рік. Київ, 1994.

**орт** (ад ням. Ort чвэрць), 1) у бел. помніках 16 ст. — чвэрць (напр., О. талера). 2) У шэрагу еўрап. краін у 17—18 ст. назва манеты ў $^1/_4$ талера з розным утрыманнем серабра і, адпаведна, курсам. Першы О. у Рэчы Паспалітай — гданьскі О. 1608 у 10 грошаў. У 1650 на О. з'явілася лічбавае пазначэнне курса — «18» (грошаў), якое па традыцыі захоўвалася да 18 ст. і пры яго змяненні як прыкмета О. Лігатурная маса ад 7 да 5 г, проба ад 875 да 625 праміле (у 1752—56 — 313 праміле), дыяметр 28—31 мм, таўшчыня каля 1 мм. У 2-й пал. 17 ст. О. (першапачаткова крэдытны О. злотавы, 30-грашовы, пазней паўнавартасны) прыраўнаваны да *тынфа* 1663—66, у канцы 17—18 ст. О. сінанімічны тынфу.

*Літ.*: Gumowski M. Monety polskie. Warszawa, 1924.

***Іван Сінчук.***




**Орты**, 1 — Жыгімонт III (1624); 2, 3 — Ян II Казімір (1654, 1664); 4 — Ян III Сабескі (1677); 5 — Аўгуст III (1756).

**Орша** (цяпер горад, цэнтр Аршанскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Аршанскага павета*, на р. Дняпро пры ўпадзенні ў яго р. Аршыца. Упершыню ўпамінаецца пад 1067, знаходзілася ў Полацкім, пасля ў Віцебскім княстве. З пачаткам княжання ў Віцебску Альгерда (1320) О. ў складзе Віцебскага княства далучана да ВКЛ. У 1398—1407 паводле загаду кн. Вітаўта пабудаваны *Аршанскі замак*, які стаў цэнтр. пунктам *аршанскіх гарадскіх умацаванняў*. У 1-й пал. 16 ст. О. неаднаразова занята рас. войскамі. У 1555 М.*Радзівіл* Чорны заснаваў у О. кальвінскі збор, адзін з першых на Беларусі. Горад меў гандлёвыя сувязі з Расіяй, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай, быў транзітным цэнтрам, важным пунктам вял. гандлёвага шляху з Расіі ў Польшчу і Прыбалтыку. У 1620 горад атрымаў магдэбургскае права, на аснове якога аршанцы выпрацавалі ўласны статут (гл. *Аршанскае права*), і герб: у блакітным полі залаты паўмесяц, паміж рагамі якога сярэбраны крыж. У сярэдзіне 17 ст. ў О. каля 5 тыс. ж. У 17 ст. заснаваны кляштары бернардзінцаў, дамініканцаў, францысканцаў, базыльянак, у 18 ст. —трынітарыяў, Пакроўскі базыльянскі манастыр. У 1616 адчыніўся *Аршанскі езуіцкі калегіум*. З 1592 існавала правасл. брацтва. Дзейнічалі таксама царква Ільі Прарока (1505), саборная царква Раства Маці Божай (1691), кляштары місіянераў (1752), марыявітак (18 ст.), цэрквы Ушэсця (1757), Іаана Багаслова (1790) і інш. У 17 ст. О. была адным з буйных мастацкіх цэнтраў Беларусі. Тут працавалі разьбяры Іпаліт, Герасім і Арсеній, цесляры Восіп Андрэеў і Андрэй Фёдараў, гравёр Паісій, ювелір і чаканшчык Афанасій Воўчак, майстры-збройнікі, мастакі. З О. паходзяць рукапісныя помнікі бел. пісьменства «Лісты» Ф.С.*Кміты-Чарнабыльскага*, «Збор польскіх і рускіх вершаў» (канец 17 ст.), «*Аршанскі кодэкс*» (да 1693). У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і ў *Паўночную вайну 1700—21* горад моцна пацярпеў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Драгун Ю.И. Орша в XVI—первой половине XVII в.: (историко-экономический очерк) // Вопросы истории БССР. Мн., 1969. Вып. 37; Слюнькова И.Н. Градостроительное развитие феодальной Орши // Архитектурное наследство. М., 1990. Вып. 37; Шынкевіч А.М. Аршанская даўніна. Мн., 1992; Габрусь Т., Чантурыя Ю. Зруйнаваная Ворша // Спадчына. 1993. № 5; Кушнярэвіч А.М. Манастыры Віцебска і Оршы // Гіст.-археал. зб. Мн., 1993. Ч. 1; Левко О.Н. Средневековая Орша и ее округа: (Ист.-археол. очерк). Орша, 1993; Дзядзенка З. Як Сапегі Оршай кіравалі // Бел. мінуўшчына. 1996. № 6; Асіноўскі С. Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі. Мн., 1997.

**«Орыга рэгіс»** («Origo regis Jagyelo et Wytholdi ducum Lithuanie», «Пачатак праўлення Ягайлы і княжання Вітаўта ў Літве»), помнік беларуска-літоўскага летапісання, лацінскі пераклад часткі «*Летапісца вялікіх князёў літоўскіх*». Змест «О.р.» — гісторыя ВКЛ ад часоў праўлення сыноў вял. кн. Гедзіміна да першых уцёкаў Вітаўта да крыжакоў (аналагічны зместу Віленскага, Супрасльскага, Слуцкага і інш.

летапісаў). Мяркуецца, што летапіс быў перакладзены на лац. мову для польскага гісторыка Я.*Длугаша*. Пераклад збярогся ў складзе Кароннай метрыкі, куды быў запісаны ў канцы 15 ст. «О.р.» — першы пераклад бел. літаратурнага твора на інш. мову. Упершыню апублікаваны ў 1888 А.Прахаскам, пасля — у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 35, 1980).

**Осцей**, літоўскі князь, які ў 1382 узначаліў абарону Масквы ад войск хана Тахтамыша. О. з'явіўся ў Маскве пасля раптоўнага ад'езду з горада вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча (Данскога) і фактычна ўзначаліў уладу ў горадзе. Здолеў спыніць мяцеж гараджан, што ўзнік пасля ад'езду Дзмітрыя, і арганізаваў абарону Масквы. Пасля безвыніковай 3-дзённай аблогі 26 жн. Тахтамыш выманіў О. з горада і забіў яго; Масква была спалена. Дзейнасць О. апісана ў летапіснай «Аповесці пра нашэсце Тахтамыша», якая не паведамляе пра паходжанне О., але называе яго ўнукам *Альгерда*. Магчыма, О. быў сынам *Дзмітрыя Альгердавіча*, які ў гэты час трымаў Пераяслаў недалёка ад Масквы, або *Андрэя Альгердавіча*.

*Літ.*: Салмина М.А. Повесть о нашествии Тохтамыша // Тр. Отдела древнерусской литературы. Л., 1979. Т. 34.

**Осцікі**, шляхецкі род герба «Трубы». Найб. вядомыя:

Осцік (у каталіцтве Крысцін; ?—1442 або 1443), родапачынальнік О. Паходзіў з заможнага літ. баярства з-пад Вільні. Як стараста ушпальскі падпісаў *Салінскі дагавор 1398*, пасля — акт *Віленска-Радамскай уніі 1401*, *Рацёнжскі дагавор 1404*, *Тарунскі мір 1411*, акт *Гарадзельскай уніі 1413* (у час яе заключэння атрымаў герб «Трубы»), *Мельнскі дагавор 1422*. Да 1418 атрымаў пасаду кашталяна віленскага. Належаў да найб. уплывовых магнатаў ВКЛ, выступаў саюзнікам Вітаўта ў барацьбе за самастойнасць дзяржавы. Падтрымліваў вял. кн. Свідрыгайлу



Да арт. **Осцікі**. Пячатка Осціка (Крысціна). 1422.

[1430—32], але пасля перайшоў на бок яго праціўніка вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча [1432—40], падтрымаў абранне на пасад ВКЛ Казіміра IV [1440—92]. Валодаў шматлікімі маёнткамі ў Літве і Жамойці. Меў некалькі сыноў, з якіх ад Станькі (Станіслава) пайшоў далейшы род О., ад Радзівіла — магнацкі род *Радзівілаў*.

Рыгор Станькавіч (?—1519), унук Осціка. Маршалак гаспадарскі ў 1492—94 і надворны ў 1494—1510, стараста анікштынскі з 1494, мерацкі з 1495, ушпальскі і пенянскі з 1510, ваявода троцкі з 1510. Удзельнік вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1492—94. У *бітве на Вядрошы 1500* трапіў у палон, вярнуўся ў 1509.

Юрый Рыгоравіч (?—1546 або 1547), сын Рыгора Станькавіча. Дзяржаўца анікштынскі, дарсунішскі, маршалак гаспадарскі ў 1546.

Станіслаў Рыгоравіч (?—1519), сын Рыгора Станькавіча. Стараста пенянскі і ушпальскі, крайчы ВКЛ у 1517—19, ваявода полацкі ў 1519.

Рыгор Рыгоравіч (мянушка Віршыла; ?—1557), сын Рыгора Станькавіча. Крайчы ВКЛ у 1519—42, стараста ковенскі ў 1539, упіцкі ў 1546, ваявода навагародскі ў 1542—44, кашталян віленскі з 1544. Быў у апазіцыі да клана Радзівілаў.

Юрый Юр'евіч (каля 1530—79), сын Юрыя Рыгоравіча. Стараста браслаўскі з 1558, дзяржаўца упіцкі ў 1-й пал. 1560-х г., ваявода мсціслаўскі ў 1566—78, ваявода смаленскі з 1578. Кальвініст. Удзельнік Інфлянцкай вайны 1558—82. Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572) выступаў за абранне на пасад Рэчы Паспалітай царэвіча Фёдара Іванавіча, падпісаў элекцыю Генрыка Валезы. Пасля ўцёкаў апошняга ў 1574 выступаў супраць абрання на каралеўскі пасад цара Івана IV Грознага.

Рыгор Юр'евіч (каля 1535—18.6.1580), сын Юрыя Рыгоравіча. Каралеўскі дваранін з 1569. Кальвініст. У час бескаралеўя 1572 выступаў за абранне на пасад царэвіча Фёдара Іванавіча, у час 2-га бескаралеўя — за цара Івана IV (прапаноўваў яму падтрымку ўзамен за г. Ковель, Бельск і пасаду «гетмана дворнага»). У 1580 зняволены ў Вільні з-за падазроных кантактаў з рас. паслом, абвінавачаны ў дзярж. здрадзе, замаху на жыццё караля Стафана Баторыя і пакараны смерцю. На яго сыне Яне, суддзі земскім віленскім у 1606—09, род О. скончыўся.

*Валерый Пазднякоў.*

**отчычы**, 1) у ВКЛ у 15—18 ст. адна з асноўных па характары асабістай залежнасці ад феадалаў катэгорый сялян. Не мелі права пераходу ад аднаго феадала да другога і таму называліся яшчэ *людзі непахожыя*, або «отчизные» людзі, г.зн. атрыманыя феадаламі ў спадчыну. У О. ператвараліся тыя *людзі пахожыя* і іх нашчадкі, якія пратэрмінавалі («заседели») 10-гадовы тэрмін даўнасці і не маглі заплаціць за выхад. Прыгоннае права феадалаў на О. заканадаўча афармлена прывілеем 1447, Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588. Феадалы маглі О. перадаваць у спадчыну, дарыць, закладваць і прадаваць з зямлёю і без зямлі. 2) У ВКЛ у 15—16 ст. назва сялян і феадалаў, якія атрымлівалі ў спадчыну зямлю або маёнтак бацькі («отчину»).

*Літ.*: Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

*Міхаіл Спірыдонаў.*







**Пабойская бітва 1435**, гл. *Вількамірская бітва 1435.*

**паборца**, службовая асоба ў ВКЛ па збору падаткаў. Спачатку прызначаўся вял. князем. У 16 ст. шляхта дамагліся права выбіраць П. на павятовых рэляцыйных сойміках з аселай у адпаведным павеце шляхты. Атрымлівалі ўзнагароду з сабраных сум, якія перадавалі падскарбію ВКЛ.

**Павел з Візны**, дзеяч Рэфармацыі ў ВКЛ 2-й пал. 16 ст.; адзін з ідэолагаў радыкальнай левай плыні *антытрынітарыяў* (літ. братоў), якія адмоўна ставіліся да існуючых дзярж. і грамадскіх ін-таў, найперш да прыгонніцтва. Быў сярод тых, хто ў снеж. 1565 на сінодзе літ. і польскіх братоў у Венграве (Падляшша) ухваляў сац. радыкалізм мюнстэрскіх анабаптыстаў. На сінодзе літ. братоў у Іўі (студз. 1568) разам з *Якубам з Калінаўкі* з пазіцый плебейскага эгалітарызму палемізаваў з лаяльнымі, сацыяльна памяркоўнымі поглядамі С.*Буднага* і В.*Цяпінскага*. Як сведчыць пратакол сінода, апублікаваны Будным у сваёй працы «Пра свецкую ўладу» (Лоск, 1583), П. з В. сцвярджаў: «Я так разумею і так веру, што сапраўднаму хрысціяніну нельга мець падданых, а тым больш нявольнікаў і нявольніц, бо гэта паганства панаваць над сваім братам, карыстацца з яго поту і крыві. Святое пісанне ясна сведчыць, што Бог стварыў род чалавечы з адной крыві, таму ўсе мы роўныя, усе браты». На сінодзе ў Пелешніцы (пад Кракавам) у кастр. 1568 падтрымаў сацыяльна-радыкальную прамову свайго аднадумца Гжэгажа Паўла.

*Літ.*: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI—нач. XX в. Мн., 1962; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970.

*Сямён Падокшын.*

**павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ. Тэрмін польскага паходжання, пачаў ужывацца ў ВКЛ з 15 ст. спачатку як сінонім стараж.-рус. тэрміна *валасць*. У 1-й пал. 16 ст. пад П. звычайна разумелі буйную валасць, цэнтрам якой быў горад або замак, што належаў дзяржаве, у т.л. скасаванае ўдзельнае княства. Першапачаткова не меў афіцыйнага статуса і органаў кіравання. Буйныя землеўладальнікі (паны) на тэр. П. падпарадкоўваліся ваяводу, дробныя (баяры-шляхта) — намесніку павятовага цэнтра. Часам пад П. разумелі толькі тэрыторыю, падкантрольную намесніку; у гэтым сэнсе П. быў сінонімам *намесніцтва*. Упершыню статус П. афіцыйна акрэслены ў выніку адм.-тэр. рэформы 1565—66. П. ўваходзілі ў склад *ваяводстваў*. Усе намесніцтвы і валасці, якія не атрымалі статус П., увайшлі ў іх склад у якасці звычайных маёнткаў. З гэтага часу ўсе землеўладальнікі на тэр. П. падлягалі юрысдыкцыі павятовых органаў улады: грамадскія справы разглядаў земскі суд, крымінальныя — гродскі суд, справы аб межах маёнткаў — падкаморы; ваенна-мабілізацыйнымі справамі ведаў харужы. У час вайны шляхецкае апалчэнне (харугва) знаходзілася пад кіраўніцтвам маршалка, а калі цэнтр П. адначасова быў цэнтрам ваяводства — пад кіраўніцтвам кашталяна. Павятовая шляхта збіралася на сойміκі, дзе выбірала дэлегатаў на агульнадзярж. вальны сойм і ў Трыбунал ВКЛ. Структура павятовага кіравання замацавана Статутамі ВКЛ 1566 і 1588. Аднак тэрмін «П.» зрэдку ўжываўся ў першапачатковым сэнсе, як вызначэнне гіст. валасці з цэнтрам у горадзе, які неабавязкова меў павятовыя ўстановы (у такім сэнсе ў крыніцах сустракаюцца назвы «Магілёўскі павет», «Крычаўскі павет» і інш.).

*Вячаслаў Насевіч.*

**пагалоўшчына**, пагалоўнае, дзяржаўны падатак у ВКЛ у 16—18 ст. Збіраўся з яўрэяў, татараў, цыганоў, гандляроў-шатландцаў (*шкотаў*), замежных купцоў. Першапачатковы памер — 1 злоты з чалавека на год, у 18 ст. — больш за 2 злотыя. Памер П. з яўрэяў устанаўліваўся ў агульнай кольκасці, якая размяркоўвалася кагаламі сярод сваіх членаў. П. плацілі тыя татары, хто не меў зямлі і не выконваў ваенную службу, а займаўся рамізніцтвам, рамёствамі і інш. Шкоты плацілі П. ў залежнасці ад колькасці коней, а калі іх не было — толькі за сябе.

**пагоня**, ваенная павіннасць у ВКЛ. Згадваецца ў *прывілеі 1387* караля польскага і вял. князя літ. Ягайлы: «У тым выпадку, калі прыйдзецца пера-

следаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых, якія б збягалі з нашай літоўскай зямлі, то дзеля гэтага роду пераследавання, якое па-народнаму завецца пагоняй, абавязаны адпраўляцца не толькі рыцары, але і кожны мужчына, якога б ён ні быў паходжання або стану, толькі б ён быў здольны насіць зброю». У лацінскім тэксце акта слова «пагоня» прыведзена ў форме «pogonia», што сведчыць пра існаванне гэтай павіннасці на славянскіх землях ВКЛ.

**«Пагоня»,** 1) назва дынастычнага (*Гедзімінавічаў*) і дзяржаўнага герба ВКЛ: у чырвоным полі на сярэбраным кані з блакітнай збруяй сярэбраны рыцар з узнятым мячом і тарчай, на якой у блакітным полі змешчаны залаты 6-канцовы крыж. З'явіўся ў выніку працэсу геральдызацыі (з канца 14 па канец 15 ст.) выявы вершніка з партрэтных пячатак вял. князёў літоўскіх Ягайлы (Уладзіслава II) і Вітаўта. Спачатку гербавая выява ўвасабляла суверэннага ўладара-князя і магла мець пэўныя адрозныя элементы: цмока пад капытамі каня, адсутнасць тарчы ў вершніка, дзіду замест мяча або асабістыя гербы Ягайлы ці Вітаўта на тарчы вершніка — «Бойчу» ці «*Калюмны*». Менавіта апошні варыянт — з «Калюмнамі» — зафіксаваны ў зах.-еўрапейскіх гербоўніках 1-й пал. 15 ст. «Armorial Lyncenich» і «Codex Bergshammar», дзе герб быў падпісаны «Hertoghe van


Да арт. **«Пагоня»**. Пячатка кнзя Вітаўта. Канец 14 ст.



Герб **«Пагоня»** на траяку Жыгімонта II Аўгуста. 1562.

lettouwen onde van rusen» і «Hertoge lettouwen». Гэта сведчыць аб познім часе з'яўлення назвы «П.», бо яе не ведаў і польскі храніст Я.*Длугаш*, які ў 2-й пал. 15 ст. апісваў харугвы ВКЛ з выявай вершніка пад Грунвальдам. Толькі ў канцы 15—1-й пал. 16 ст. за гербам замацавалася назва «П.», што было звязана з пераасэнсаваннем гербавай выявы. Пад уплывам вядомай ў ВКЛ з канца 14 ст. ваеннай павіннасці — *пагоні*, якая прадпісвала кожнаму здольнаму насіць зброю мужчыне конна ўдзельнічаць у праследаванні ворага, выява вершніка стала разумецца як сімвал абаронцы Айчыны. У сувязі з гэтым аўтары бел.-літ. летапісаў 1-й пал. 16 ст. імкнуліся даказаць старажытнасць герба і растлумачыць сэнс гербавай выявы і назвы. Для гэтага яны час стварэння «П.» адносілі да 13 ст., а стваральнікам яе рабілі міфічнага вял. князя Нарымонта Раманавіча: «Той Наримунт мел герб або клейнот рицерства своего таковый и тым печатовался, Великому князству Литовскому заставил его», а сам герб апісвалі і тлумачылі так: «В гербе муж збройный на коню белом, в полю червоном, меч голый, як бы кого гонючи держал над головою, и есть оттоля названы погоня». У інш. месцы пра вершніка гаварылася: «А то знаменуючи через тот герб пана, хто бы мог боронити мечом отчизны своее». Назвай «П.» карыстаўся і апошні з Ягайлавічаў — кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст. У 1562 ён загадаў біць манеты-траякі, «а на сем з одное стороны два першие слова, которими ся починаеть писати имя нашо господарское, а з другое стороны ... герб Погоня». Гэта сведчыць пра тое, што ён разумеў «П.» не столькі як свой дынастычны, колькі як дзярж. герб ВКЛ. Статут ВКЛ 1566 зафіксаваў менавіта такі яго статус: «Тежмы Господарь даем под гербом того паньства нашого Великого князства Литовского Погонею печать до каждого повету». У такой якасці герб праіснаваў да канца 18 ст. на канцылярскіх пячатках, манетах, ваяводскіх і павятовых гербах і харугвах ВКЛ. Як дынастычны герб «П.» выкарыстоўвалася княжацкімі родамі, якія выводзілі сябе ад Гедзіміна: Алелькавічамі, Бельскімі, Карэцкімі, Сангушкамі,Чартарыйскімі і інш.

2) Назва шляхецкага герба ў Польшчы і ВКЛ: у залатым полі з чырвонай падставай сярэбраная збройная рука з мячом, якая выходзіць з блакітнага воблака, у клейнодзе — такая ж самая рука. Паходзіць ад герба з выявай вершніка з мячом караля польскага Уладзіслава II (Ягайлы). Па-сутнасці, гэты элемент яго герба як вял. князя літоўскага ім быў выкарыстаны ў Польшчы для набілітацыйных мэт 1-ы раз у 1434 для лялёўскага войта Мікалая. У пазнейшых набілітацыях меў пэўныя адрозненні: чырвонае поле, адсутнасць воблака, іншы клейнод і г.д. У ВКЛ гербам карысталіся Адляніцкія, Пачобуты, Рэплінскія, Семяновічы і інш. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 51, 52, 53.

*Літ*: Ц і т о ў А. Наш сімвал — Пагоня: шлях праз стагоддзі. Мн., 1992; Я г о ж. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі. Мн., 1993; K u c z y ń s k i S.K. Polskie herby ziemskie: Geneza, treści, funkcje. Warszawa, 1993; S z y m a ń s k i J. Herbarz średniowiecznego rycerstwa polskiego. Warszawa, 1993; T r e l i ń s k a B. Pogonia — herb wprowadzony przez Władysława Jagiełłę // Nihil superfluum esse. Poznań, 2000; Ш а л а н д а А. Генезіс «Пагоні» — дзяржаўнага герба Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2001. Z. 16; G ó r z y ń s k i S., K o c h a n o w s k i J. Herby szlachty polskiej. Warszawa, 1992; P i e c h Z. Monety, pieczęcie i herby w systemie symboli władzy Jagiellonów. Warszawa, 2003.

***Аляксей Шаланда.***

**Паграбка** (Pograbka) Анджэй (?, г. Пльзень, Чэхія—1602), лекар, картограф. З мяшчан. Вучыўся ва ун-тах Кракава, Балонні і Падуі, дзе ў 1571 атрымаў ступень д-ра медыцыны і філасофіі. З 1572 у Польшчы. Набыў вядомасць дзякуючы складзенай у Падуі 2-аркушавай карце «Частка Еўрапейскай Сарматыі» (маштаб каля 1:2 000 000).

Выкарыстаў матэрыялы В.Градзецкага і Г.Меркатара, дадаў новыя даныя па ВКЛ. Карта друкавалася у самых вядомых еўрапейскіх атласах 2-й пал. 16—пач. 17 ст. пад назвай «Апісанне Польшчы і Літвы» («Polonia, Lithuaniae descriptio»).

*Літ.*: Kublin L., Majewska M., Tomaszewska M. Mapy ziem polskich kartografów niderlandzkich XVI i XVII w. Warszawa, 1987; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў. Мн., 2004.

***Леў Казлоў.***

**падарожчына**, падатак у ВКЛ у 16—18 ст. Бралася феадалам з сялян як грашовы эквівалент *падводнай павіннасці*. Памер П. вызначаўся паводле мясцовага звычаю і фіксаваўся ў інвентарах.

**Падбайла** (Падабайла, Пабадайла) Сцяпан (?—ліп. 1654), казацкі палкоўнік, кіраўнік казацкіх атрадаў на Беларусі ў *антыфеадальную вайну 1648—51*. У 1648 атрад П. і палкоўніка І.*Гаркушы* знаходзіўся ў Бабруйску, адкуль у верасні рушыў да Беразіна, а ў пач. снежня да Старога Быхава. Пасля няўдалага штурму замка і непрацяглай аблогі казакі адступілі. У 1649 П. на чале 6 тыс. казакоў Чарнігаўскага палка абараняў т.зв. Лоеўскія пераправы, каб не дапусціць войска Я.*Радзівіла* на Украіну. Пасля *Лоеўскай бітвы 1649* захапіў Гомель і аблажыў Чачэрск. У 1651 накіраваны Б.Хмяльніцкім у якасці пасла да Радзівіла. Удзельнічаў у *Лоеўскай бітве 1651*, дзе пацярпеў паражэнне і адступіў да Чарнігава. Паміж Чарнігавам і Любечам нанёс паражэнне атраду Слушкі. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* узначальваў Чарнігаўскі полк казацкага войска І.*Залатарэнкі*. Загінуў у баі пад Гомелем.

*Літ.*: Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978.

**Падбярэскія**, шляхецкі род герба «Газдава». Родапачынальнік, полацкі баярын Яцка Сенькавіч (?—пасля 1520), быў жанаты з сястрой кн. Сямёна Ямантавіча-Падбярэскага Ульянай. Пасля смерці бяздзетнага князя (1540) Ульяна адсудзіла маёнтак Падбярэззе ў Аршанскім пав. і інш. ўладанні на карысць сваіх сыноў Рыгора і Івана Яцкевічаў. З іх Рыгор (1510?—пасля 1585) атрымаў пры падзеле з братам Падбярэззе і Бачэйкава і пачаў ужываць прозвішча П. Яго нашчадкі неаднаразова займалі павятовыя пасады, пераважна ў Аршанскім пав. З іх найб. вызначыўся Рыгор Казімір (1620?—1677), сын Аляксандра, ротмістр казацкай харугвы ВКЛ з 1643, удзельнік Лоеўскай бітвы 1649 з укр. казакамі, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, ваявода смаленскі з 1667. Існаваў іншы род П., якія карысталіся гербам «Тарнава» зменeная.

***Вячаслаў Насевіч.***

**падваявода**, службовая асоба ў мясцовай адміністрацыі ВКЛ у 15—18 ст., намеснік *ваяводы*. Звычайна кіраваў дваром ваяводы (адсюль другая назва П. — каморнік ваяводскі), назіраў за гандлем і спаганяў падаткі з гандлёвых заняткаў. У ваяводствах ВКЛ, за выключэннем Берасцейскага і Менскага, лічыўся земскім чыноўнікам і па даручэнні ваяводы замяняў яго ў судзе ваяводства. Кантраляваў наяўнасць і спраўнасць эталонаў мер і вагі на тэр. ваяводства, аб'язджаў гарады, кантралюючы мясцовы гандаль. Пасада П. давала магчымасць атрымліваць грашовыя прыбыткі, на яе заўсёды было шмат прэтэндэнтаў, але вял. значэння яна не мела.

*Літ.*: Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. Warszawa, 1976; Gloger Z. Encyklopedia staropolska. T. 4. Warszawa, 1978.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**падводная павіннасць**, бярэма пазаовае, феадальная павіннасць у ВКЛ у 16—18 ст., паводле якой сяляне вазілі на сваіх падводах прадукцыю землеўладальнікаў да рачных прыстаней і ў горад.

**падданыя**, у ВКЛ назва прыгонных сялян. У актах упамінаюцца П. айчызныя (*отчычы*), прымацаваныя да вотчыны і маёнткаў, а таксама П. пахожыя, або вольныя, якія мелі права вольнага пераходу. Падданства характарызавалася амаль поўнай адсутнасцю правоў у сялян і некаторымі абмежаванымі правамі мяшчан. П. павінны былі выконваць шматлікія павіннасці ў адносінах да дзяржавы. Сістэма падданства была заснавана на асабістай залежнасці і паслушэнстве васала сюзерэну, прыгоннага — свайму пану, усяго насельніцтва — уладару дзяржавы. У актах ВКЛ сустракаецца выраз «падданыя Рымскаму касцёлу», г.зн. каталікі.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Паддубскі** (?—22.2.1649), кіраўнік казацка-сялянскага атрада на Беларусі ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. У 1648 атрад П. падтрымаў паўстанцаў Бабруйска (гл. *Бабруйска абарона 1649*) і з імі адбіваў спробы войска ВКЛ на чале з У.Валовічам захапіць горад. У час штурму П. ўзяты ў палон і пасаджаны на кол.

*Літ.*: Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978.

**падкаморскі суд**, судова-арбітражны орган у ВКЛ у 16—18 ст. па разглядзе памежных зямельных спрэчак феадалаў. Утвораны ў 1565 у кожным павеце, зацверджаны Статутам ВКЛ 1566. Суд ажыццяўляла адна асоба — *падкаморы*, які наймаў сабе памочнікаў — аднаго або двух *каморнікаў*, грабароў, пісара. Судовая справа накіроўвалася ў П.с. *земскім судом* або *гродскім судом* адпаведнага павета. Падкаморы дасылаў позвы бакам з пазначэннем тэрміну, калі яны павінны былі з'явіцца на спрэчнай тэрыторыі. Справа разглядалася на месцы. Падкаморы асабіста вывучаў дакументы, аглядаў межавыя знакі, прыводзіў да прысягі і дапытваў сведак, пазначаў новыя межы ўладанняў умоўнымі знакамі. Сваё рашэнне (гранічны ліст) пад уласным подпісам і пячаткай перадаваў у земскі або гродскі суд. Апеляцыі на рашэнні П.с. падаваліся ў Трыбунал ВКЛ. Актавыя кнігі П.с. захоўваліся ў падкаморага і замацоўваліся яго пячаткай, пасля яго смерці перадаваліся ў земскі суд. Іскі бакоў аб праве землеўладання не былі кампетэнцыяй П.с. і разглядаліся земскім судом, а спрэчкі аб межах паміж землеўладаннямі шляхты і вял. князя — *камісарскім судом*. П.с. скасаваны ва ўсх. Беларусі ў 1772, у цэнтр. і зах. Беларусі — у 1795. Адноўлены ў 1797, канчаткова скасаваны ў 1832.

*Літ.*: Лаппо И. Подкоморский суд в Великом княжестве Литовском в конце XVI и начале XVII в. // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1899. № 8.

***Валерый Пазднякоў.***

**падкаморы**, службовая асоба ў ВКЛ. П. прыдворны адказваў за парадак і ўбранства ў пакоях вял. князя, быў

яго дарадчыкам і ўваходзіў у склад *Рады Вялікага княства Літоўскага*. Прызначаўся з буйных феадалаў. П. павятовы разглядаў зямельныя спрэчкі паміж шляхтай у *падкаморскім судзе*, удзельнічаў у разглядзе спраў у *каптуровым судзе*. Прызначаўся вял. князем з 4 кандыдатаў, выбраных шляхтай на павятовым сойміку. Гэту пасаду мог займаць толькі шляхціц-хрысціянін, ураджэнец ВКЛ, які валодаў маёнткам у гэтым павеце, ведаў правa. П. прызначаў сабе з мясцовай шляхты 1—2 памочнікаў — *каморнікаў*, якія вымяралі спрэчныя землі, а таксама па яго даручэнні разглядалі дробныя справы.

***Язэп Юхо.***

**падканцлер**, службовая асоба ў ВКЛ у 15—18 ст., намеснік *канцлера*. П. замяшчаў канцлера ў кіраванні дзярж. канцылярыяй, вёў (як і канцлер) замежныя і ўнутраныя справы, кіраваў працай пісараў і сакратароў у канцылярыі ВКЛ, быў хавальнікам малой дзярж. пячаткі. Паводле загаду вял. князя П. выдаваў асобам дзярж. дакументы за сваім подпісам і малой пячаткай. Першым вядомым П. быў кн. Б.Глінскі — П. вял. кн. Свідрыгайлы ў 1446. Афіцыйна як пастаянная пасада П. была ўведзена ў ВКЛ у 1566. На яе быў прызначаны А.Б.*Валовіч*, які займаў гэту пасаду да 1579, калі быў прызначаны канцлерам. Пасада П. была ўведзена ў сувязі з пашырэннем справаводства ў велікакняжацкай канцылярыі і неабходнасцю знаходжання канцлера ў сталіцы для зацвярджэння найважнейшых дзярж. дакументаў. Канцлер або П. суправаджалі вял. князя ў іншыя гарады і мясцовасці або за мяжу, каб зацвярджаць дзярж. дакументы. П. прымалі ўдзел у падрыхтоўцы дзярж. законапраектаў і іх канчатковым рэдагаванні, кіравалі камісіяй па падрыхтоўцы Статута ВКЛ 1588. На пасаду П. прызначаліся буйныя феадалы, якія спалучалі з ёй інш. дзярж. пасады, мелі адукацыю і практычны вопыт дзярж., судовай ці канцылярскай службы. З 16 ст. П. быў хавальнікам дзярж. архіўных актаў — *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага*. П. уваходзіў у склад Рады ВКЛ.

*Літ.*: Любавский М. Литовско-русский сейм. М., 1900; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Малиновский И. Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней Руси. Ч. 2, вып. 1. Томск, 1912.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**падканюшы**, урад (пасада) пры двары вял. князя літоўскага. Вядома з пач. 17 ст. Наглядаў за велікакняжацкімі табунамі і стайнямі, кіраваў конюхамі. Першапачаткова прызначаўся *канюшым*, пасля вял. князем.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Падляшскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1513—69. Вылучана са складу *Троцкага ваяводства* 29.8. 1513 як Падляшска-Берасцейскае ваяв. (былы ваявода віцебскі І.С.Сапега атрымаў ад вял. кн. Жыгімонта І прывілей «на ваяводства падляшскае, берасцейскае і інш.», называўся таксама ваяводам наднарвенскім). П.в. ахоплівала *Падляшша* (Дарагічынскі, Мельніцкі і Бельскі пав.) і Берасцейскую зямлю (Берасцейскі, Камянецкі і Кобрынскі пав.). Пасля смерці Сапегі (1517) гэтыя тэрыторыі, відаць, зноў



Аўтар М.Ф.Спірыдонаў



падначалены троцкаму ваяводу да прызначэння ў 1520 новага падляшскага ваяводы. У выніку адм.-тэр. рэформы 1565—66 Берасцейскі, Камянецкі і Кобрынскі пав. вылучаны са складу П.в. і разам з землямі былога Турава-Пінскага княства ўвайшлі ў *Берасцейскае ваяводства*. Пасля гэтага П.в. падзялялася на Дарагічынскі, Мельніцкі і Бельскі (цэнтр — г. Бранск) паветы. Цэнтр ваяводства — г. Дарагічын. У выніку *Люблінскай уніі 1569* П.в. адышло да Польскага каралеўства.

Ваяводы падляшскія (да 1569): І.С.Сапега (1513—17), Я.Косцевіч (1520—27), І.Б.Сапега (1529—41), М.Ю.Пац (1543—45), М.В.Нарбут (1551—55), П.І.Сапега (1556—58), В.Тышкевіч (1558—69).

Кашталян падляшскі: Р.І.Трызна (1566—69).

*Літ.*: Źródła dziejowe. T. 17, cz. 1—3. Polska XVI wieku pod względem geograficznym i statystycznym. T. 6. Podlasie (województwo) / Wyd. A.Jabłonowski. Warszawa, 1908—10; Alexandrowicz S. Powstanie i rozwój miast województwa podlaskiego (XV—I poł. XVII w.) // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1964. T. 1; Studia nad społeczeństwem i gospodarką Podlasia w XVI—XVIII w. Warszawa, 1981; Tyszkiewicz J. Podlasie: kształtowanie się nazwy i terytorium do końca XIX stulecia // Prace archeologiczno-konserwatorskie na terenie województwa siedleckiego. Siedlce, 1982. Z. 3; Jarmolik W. Powstanie województwa podlaskiego // Białostocczyzna. 1989. № 4; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 8. Urzędnicy podlascy XIV—XVIII wieku: Spisy. Kórnik, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**Падляшша**, Падлядсе, гістарычная вобласць на З ВКЛ, якая ахоплівала Дарагічынскую, Мельніцкую і Бельскую землі. Назва вядома з канца 15 ст. і распаўсюдзілася ў 16 ст. Яе выводзяць ад слова «палексяне» — назвы аднаго з яцвяжскіх плямён (сустракаецца ў польскага гісторыка В.Кадлубака ў форме «polexiani»), ад выразу «зямля пад ляхамі» (г.зн. на мяжы з Польшчай) або «зямля пад лесам» (адсюль лац. назва П. — Subsilvania). Да пач. 2-га тыс. П. — зона рассялення яцвягаў. У 12—13 ст. гэтыя землі ўваходзілі ў склад *Галіцка-Валынскага княства*, былі вобласцю каланізацыі дрыгавічоў, валынян, мазаўшан. У пач. 14 ст. П. ўвайшло ў склад ВКЛ. У сярэдзіне 14 ст. частка ўдзельнага княства Кейстута з цэнтрам у Троках. У 1382—83 мазавецкі кн. Януш І, карыстаючыся міжусобіцай у ВКЛ, на кароткі час захапіў Дарагічын і Мельнік. 2.9.1391 Ягайла перадаў яму Дарагічынскую зямлю з гарадамі Дарагічын, Мельнік, Сараж і Бельск. У пач. 15 ст. вял. князь літоўскі Вітаўт адабраў Дарагічынскую зямлю і далучыў да яе гарады на мазавецкім памежжы Ганязь, Рай і Тыкоцін. У 1413 П. ўвайшло ў склад наваствораната *Троцкага ваяводства*. У 1440 Дарагічынская зямля апынулася пад уладай мазавецкага кн. Баляслава IV (відаць, яго прызнаў як сюзерэна дарагічынскі ваявода Насута), які ў тым жа годзе выдаў мясцовай шляхце некалькі прывілеяў. У 1444 на падставе дагавора з вял. князем літоўскім Казімірам Баляслаў IV за 6000 коп грошаў адмовіўся ад правоў на П. (г. Венграў быў прызнаны за Мазовіяй, але застаўся ў ВКЛ). Наступныя прывілеі падляшскай шляхце, якія ўраўнавалі яе з польскай, выдалі вял. князі Казімір (1444), Аляксандр (1496) і Жыгімонт І (1516). Дарагічынская зямля падзялялася на Дарагічынскі, Мельніцкі і Венграўскі пав. (Венграўскі хутка зліўся з Мельніцкім). Да пач. 16 ст. вылучылася самастойная Бельская зямля, шляхта якой у 1501 таксама атрымала прывілей ад вял. кн. Аляксандра. Падляшская шляхта, сярод якой была значная колькасць выхадцаў з Мазовіі, карысталася на польскі ўзор значнымі маёмаснымі, судовымі і адм. правамі, якія ў сярэдзіне 16 ст. былі распаўсюджаны на ўсю шляхту ВКЛ. У 1513 з Троцкага ваяв. было вылучана самастойнае *Падляшскае ваяводства*.

***Валерый Пазднякоў.***

**падмайстар**, непаўнапраўны член рамеснага цэха, памочнік *майстра*. Статус П. атрымлівалі вучні, якія наймаліся да майстра і праходзілі ў яго курс навучання, сыны майстра. Пры выкананні пэўных патрабаванняў П. пераводзіліся ў паўнапраўныя члены цэха — майстры. У 17 ст. ў Гародні існавалі асобныя арг-цыі П. — кавалёў і кацельнікаў.

**Падняпроўскія і Падзвінскія гаспадарскія воласці**, адм.-тэр., падатковыя і гаспадарчыя адзінкі, зямельныя ўладанні вял. князя літоўскага. Размяшчаліся на У Беларусі па цячэнні Дняпра і Дзвіны і іх прытокаў. Складаліся з Бабруйскай, Барысаўскай, Бярэзінскай, Брагінскай, Бчыцкай (Пціцкай), Гомельскай, Горвальскай, Крычаўскай, Любашанскай, Магілёўскай, Мазырскай, Прапойскай (Прапошаскай), Рэчыцкай, Свіслацкай, Чачэрскай і інш. валасцей. Утваралі тэр. кангламерат «рускіх валасцей» ВКЛ. Арганізацыя жыцця ў іх вызначалася «*старыной*», а з 16 ст. фіксавалася ў велікакняжацкіх граматах. Воласці вылучаліся пэўнай своеасаблівасцю ў параўнанні з інш. рэгіёнамі і відамі феад. уладанняў. Асн. павіннасцю залежнага насельніцтва была *даніна*, таму насельніцтва называлася *даннікамі*. У канцы 15—16 ст. аснову выплат складала даніна «грошовая и бобры и куницы... и мед пресный», жытам, аўсом, сенам і інш., якая нярэдка спалучалася з пэўнымі нерэгулярнымі работамі (падводы, рамонт гаспадарскіх замкаў). Другой своеасаблівасцю гэтых валасцей было захаванне абшчынных традыцый. Даніна тут звычайна раскладвалася пароўну сярод насельніцтва, потым збіралася агулам з воласці і адвозілася ў спец. прызначаныя месцы. Нярэдка ў валасцях захоўвалася і абшчыннае землекарыстанне. Насельніцтва называлася мужамі, кіраўнікі грамад — старцамі. Нават у 16 ст. вял. князь у сваіх граматах да насельніцтва гэтых валасцей абавязкова падкрэсліваў, што адрасаваныя яны «старцом и всим мужом поднепровским». Пасля аграрнай рэформы 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. (*валочнай памеры*) асн. відам зямельнага надзелу і адзінкай абкладання павіннасцямі была ўведзена блізкая да валокі *служба*, вядучай формай феад. рэнты стала грашовая рэнта — *чынш* у спалучэнні з данінай (у адрозненне ад паншчыны ў фальварках зах. і цэнтр. Беларусі).

*Літ.*: Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі ў XVI—XVIII стст. Мн., 1992; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

***Валянцін Голубеў.***

**Падокшын** Сямён Аляксандравіч (8.3.1931, г. Гомель—21.12.2004), беларускі філосаф і гісторык. Д-р філасофскіх навук (1987). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1953). З 1960 у Ін-це філасофіі і права НАН Беларусі. Даследаваў рэфармацыйна-гуманістычны рух і рэліг.-царк. жыццё ВКЛ 14—17 ст., гісторыю філасофскай і грамадска-паліт. думкі эпохі Адраджэння і Рэфармацыі, праблемы культуры, філасофіі гісторыі, нац. самасвядомасці бел. народа. Вызначыў спецыфічныя рысы айчыннага Адраджэння і гуманізму, стварыў цэласную гісторыю станаўлення і развіцця рэнесансава-гуманістычнай думкі Беларусі. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), прац «Францыск Скарына і яго час» (1988), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты, даведнік, каментарыі» (1989), «Скарына і яго эпоха» (1990), «Мысліцелі і асветнікі Беларусі, X—XIX стст.» (1995). Дзярж. прэмія Беларусі (1984) за цыкл работ па гісторыі філасофскай і грамадска-паліт. думкі Беларусі.

*Тв.*: Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI в.). Мн., 1970; Скорина и Будный: Очерк филос. взглядов. Мн., 1974; Франциск Скорина. М., 1981; Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII ст. Мн., 1991 (у сааўт.); Канцэпцыя гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў даследаваннях Мацея Любаўскага (XIII—першая пал. XVI ст.) // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1996. № 4; Унія. Дзяржаўнасць. Культура: (Філас.-гіст. аналіз). Мн., 1998; Палітычная і прававая думка Беларусі XVI—XVI стст. Мн., 2000 (з С.Ф.Сокалам); Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003; Этычная думка ў культуры Беларусі XVI—XVII стст. Мн., 2004.

**Падолле**, гістарычная вобласць у 2-й пал. 14—18 ст. у басейне Паўд. Буга і на левабярэжжы Днястра (тэр. сучасных Вінніцкай і Хмяльніцкай абласцей Украіны). У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) тэр. П. паказана вельмі расцягнутай, на У яна даходзіць да Дняпра. У ВКЛ існавалі ўяўленні, што П. на Пд даходзіла да Чорнага мора. У сярэдзіне 16 ст. з усх. П. створана Брацлаўскае ваяв. З 1772 зах. П. ў складзе Аўстрыі, з 1793 усх. Падолле ў складзе Рас. імперыі.

**падпісак**, памочнік *пісара* ў земскіх і гродскіх судах і інш. установах ВКЛ. Тэрмін мае польскае паходжанне і адпавядаў па значэнні ўсх.-слав. тэрміну «дзяк». Статуты ВКЛ 1566 і 1588 дазвалялі земскім і гродскім пісарам мець 1 або 2 П., але за памылкі ў запісах, якія былі зроблены П., адказнасць нёс пісар. Калі меркаваць па колькасці почыркаў у актавых кнігах, колькасць П. магла дахадзіць адначасова да 5 і болей. Яны складалі выканаўча-тэхнічны апарат пісараў. Ужо ў 2-й пал. 16 ст. сярод П. існаваў субардынацыйна-іерархічны падзел кіруючай і выканаўчай працы. Старшыя П. (так іх называюць крыніцы) ажыццяўлялі кантроль за адпаведнасцю напісанага ў актавых кнігах і выпісах з іх (відымусах). Вынік кантролю выражаўся ў прастаўленні П. у выпісу памет (з 16 ст.) «скорыкговал» (г.зн. «зверыў»), «корыкгован с книгами», «корыкговано», «корыкговал», якія паступова сталі суправаджацца імем П., які ажыццяўляў зверку. Відаць, старшыя П. у шэрагу выпадкаў рыхтавалі тэксты дакументаў. Відавочна, яны непасрэдна спаганялі плату за падрыхтоўку дакументаў. Гал. абавязкамі малодшых П. былі афармленне чыставых варыянтаў дакументаў, непасрэднае вядзенне запісаў у актавых кнігах, падрыхтоўка сшыткаў гэтых кніг да брашуравання. Відавочна, першапачаткова П. наймаліся асабіста да пісараў. У далейшым іх становішча ў складзе выканаўчага апарата ўстаноў набыло стацыянарны характар. Персанал малодшых П. складаўся ў асноўным з маладых людзей, якія ў крыніцах часта называюцца «хлопцамі». Менавіта гэтай групе П. належыць асноўны масіў пісьма, які захаваўся ў актавых крыніцах. Разнастайнасць стылявых варыянтаў кірылічнага пісьма, сярод якіх сустракаюцца такія, якія сфарміраваны пад яўным уплывам лацінскага пісьма, сведчыць аб тым, што малодшыя П. нярэдка атрымлівалі шырокую адукацыю і валодалі апрача старабел. таксама польскай і лацінскай мовамі. З палеаграфічных даных пісьма вынікае, што ў асяроддзі малодшых П. працавалі таксама асобы і сталага веку.

*Аляксандр Груша.*

**падскарбі**, службовая асоба ў ВКЛ у 15—18 ст. 1) П. з е м с к і (лац. thesaurarius noster) — кіраўнік *скарба* ВКЛ. У яго падпарадкаванні знаходзіўся троцкі скарбны, які ўзначальваў аддзяленне скарба ў Троках. Першапачаткова земскі П. быў толькі захавальнікам скарба. Выдачы са скарба ажыццяўляў па вусных загадах вял. князя і Рады ВКЛ і квітанцыях канцылярыі. У 1530-х г. узніклі першыя прыкметы пераўтварэння земскага П. ў міністра эканомікі і фінансаў. З 1531 адкупшчыкі велікакняжацкіх даходаў — мытнікі, салянічыя і васкаўнічыя — былі падпарадкаваны земскаму П., якому было дадзена права ануляваць дагаворы на водкупы мыт і прымусова кампенсаваць выдаткі ў выпадку несвоечасовай выдачы даходаў. Земскаму П. даручалася прымаць даходы з адкупшчыкоў. У адсутнасць гаспадара земскаму П. было дадзены і права суда над імі. Расходванне сродкаў адкупшчыкамі дазвалялася толькі па квітанцыях, якія мелі подпісы вял. князя і земскага П. Гэтыя паўнамоцтвы земскі П. атрымаў па прычыне вял. асабістага даверу гаспадара да асобы І.Гарнастая, які са студз. 1531 займаў гэту пасаду. Падчас валочнай памеры 1550-х г. да земскага П. перайшло вышэйшае кіраўніцтва гаспадаркай ВКЛ. Ён стаў загадваць цэлай вобласцю кіравання і надзяляцца шырокімі распарадча-выканаўчымі функцыямі. Пад яго кантроль былі пераведзены паступленні ў скарб ад дзяржаўцаў, васкаўнічых, ключнікаў, мытнікаў, карчмароў, цівуноў і інш. Земскі П. атрымаў права з ведама і волі гаспадара спаганяць даходы з тых службовых асоб, якія затрымлівалі іх. У сувязі з увядзеннем у 1561 падатку — пабору «ку обороне земли Лифлянтское», сфера ўлады земскага П. была пашырана. Зборшчыкаў гэтага пабору (паборцаў) прызначаў земскі П. Паборцы перайшлі ў загадванне і пад юрысдыкцыю земскага П. Перадача пабораў на водкуп рабілася толькі з ведама і рэкамендацыі земскага П. Ён інструктаваў паборцаў, судзіў іх па скаргах за злоўжыванні, узнагароджваў старанных, звальняў нядбайных, прызначаў на іх месца новых. Земскі П. рэкамендаваў вял. князю вызваляць ад выплаты пабору ў выпадку беднасці ці разарэння ад вой-



ска. Даход, які ішоў ад пабору, а таксама з двароў, валасцей, мыт і інш. крыніц даходаў, земскі П. выдаваў на аплату наёмных войск, забеспячэнне ўкраінных земляў і інш. велікакняжацкія і земскія патрэбы. Рабіў ён гэта па загадзе гаспадара, а ў яго адсутнасці — у выніку абмеркавання з Радай ВКЛ, аднак «водле баченья своего». Земскі П. атрымаў права здаваць у заставу службовым асобам фальваркі. Пры прызначэнні ў 1566 новага земскага П. М.П.Нарушэвіча былі пацверджаны раней дадзеныя паўнамоцтвы і ўведзены новыя. Пасада земскага П. была выключана з ведамства Рады ВКЛ і падначалена толькі вял. князю. Усе старасты, дзяржаўцы, намеснікі, цівуны (у Жамойцкай зямлі), спраўцы дзярж. даходаў і рэвізоры ў гаспадарчай дзейнасці былі перададзены ў загадванне земскага П. Яму прадастаўлена права судзіць гэтых службовых асоб і падданых па гаспадарчых справах. Земскі П. атрымаў паўнамоцтвы канфіскоўваць асабістую маёмасць стараст, дзяржаўцаў, гараднічых і цівуноў, якія спазняліся з выдачай даходаў. Распрацоўка гаспадарскіх пушчаў без дазволу гаспадара і земскага П. забаранялася. У загадванне і пад юрысдыкцыю земскага П. былі пераведзены таксама мытнікі, якіх прызначаў з «призволенья» вял. князя выключна земскі П. Раздача мыт «к верной руце» стала правам толькі земскага П. Выдача даходаў з мыт ажыццяўлялася выключна па распараджэнні земскага П. Расходванне сродкаў са скарба рабіліся толькі па загадзе гаспадара, за выключэннем тых, якія прызначаліся для забеспячэння ўкраінных замкаў баявымі прыпасамі і харчам, рамонту гэтых замкаў, аплаты наёмных войск, што неслі гарнізонную службу ў гэтых замках, а таксама татарскіх паслоў і ганцоў. У гэтых выпадках земскі П. дзейнічаў у адпаведнасці з парадамі Рады ВКЛ. У загадванне земскага П. быў пераведзены манетны двор. Прызначэнне на пасаду скарбнікаў вял. князем рабіліся толькі па рэкамендацыі земскага П. 2) П. д в о р н ы (лац. subthesaurarius Magni Ducis Lihuaniae, vicethesaurarius curiae nostrae, thesaurarius curie nostrae) спачатку быў намеснікам земскага П. і, відаць, адказваў за забеспячэнне асабістых матэрыяльных патрэб вял. князя. З вылучэннем у 1588 сталовых маёнткаў (*эканомій*) іх фінансавы і эканамічны кіраўнік.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М.К. Литовско-русский сейм. М., 1900; Л а п п о И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 11. Kórnik, 1994; P i e t k i e w i c z K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995.

***Аляксандр Груша.***

**падстараста**, намеснік *старасты*, які ім прызначаўся асабіста. Часта спалучаў сваю пасаду з пасадай *гараднічага* ці *стольніка*. Фактычны кіраўнік *гродскага суда*. У час *паспалітага рушэння* павінен быў заставацца ў замку (як і войскі), яму падпарадкоўваліся ўсе жыхары замка. У гэты час П. належала таксама ўся судовая ўлада ў горадзе.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**падстолі,** урад (пасада) у ВКЛ. Вядома з сярэдзіны 15 ст. Намеснік *стольніка*, дапамагаў яму сервіраваць велікакняжацкі стол. З часам яго функцыі сталі намінальнымі. З сярэдзіны 17 ст. вядомы павятовыя П.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**падсудак**, намеснік, потым памочнік *суддзі* земскага. Пасада ўведзена ў час адм.-тэр. рэформы 1565—66. Выбіраўся шляхтаю. Разам з пісарам уваходзіў у склад суда. Рыхтаваў справы да суда.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**падсуседзі**, п а д с у с е д н і к і, п а д с у с е д к і, беззямельныя сяляне ў ВКЛ у 16—1-й пал. 17 ст. Жылі ў вёсках і гарадах на чужых дварах (адсюль назва). Гл. ў арт. *Каморнікі*.

**падчашы**, урад (пасада) у ВКЛ. У 15—16 ст. часам тытулаваўся *чашнікам*. Павінен быў падаваць вял. князю літоўскаму напоі, папярэдне пакаштаваўшы іх сам. Пасада лічылася вельмі ганаровай, яе займалі толькі прадстаўнікі магнацкіх родаў. Першы вядомы П. — Алехна Мантыгірдавіч (1410). З канца 16 ст. вядомы павятовыя П.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**падымнае**, асноўны дзяржаўны зямельны падатак у Рэчы Паспалітай у 17—18 ст. Уведзена ў 1649. Адзінка абкладання — *двор* ці *дым*; стаўка 1 П. складала 0,5 злотага (15 грошаў) у год. Памер падатку не залежаў ад заможнасці гаспадаркі і вызначаўся соймам. У 1650 прызначаны збор 16 П., у 1653 — 12 П. з дыма. Плацілі сяляне, мяшчане і дробная шляхта. Феадалы ад П. вызваляліся (да 1775) і збіралі яго з насельніцтва ў сваіх уладаннях. Для налічэння П. перыядычна праводзіліся перапісы дымоў, пры гэтым феадалы нярэдка ўтойвалі частку дымоў, а падатак з іх прысвойвалі.

***Павел Казлоўскі.***

**падымшчына**, мясцовы падатак у ВКЛ у 15—пач. 16 ст. У Кіеўскай зямлі збіраўся раз у 3 гады з сялян-слуг, калі тыя не выходзілі на вайну; у 1529 вял. князь адмовіўся ад П. на карысць мясцовых землеўласнікаў. У Мазырскай вол. ў 1528 П. абкладаліся мяшчане і сяляне, у т.л. прыватнаўласніцкія. У пач. 16 ст. П. вядома ў Дарагічынскай валасці. У 15 ст. П. збіралася ў Мсціслаўскім княстве (называлася таксама сярэбшчына).

*Літ.*: Д о в н а р - З а п о л ь с к и й М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 713—715.

**Пажайскі кляштар камедулаў.** Заснаваны канцлерам ВКЛ К.З.Пацам (гл. ў арт. *Пацы*) у в. Пажайсце (Пажаі) каля Коўна. У 1662 і 1667 фундацыю зацвердзіў сойм. У 1662—67 пабудаваны некаторыя драўляныя будынкі. З 1667 ішло будаўніцтва мураванага касцёла і кляштарных карпусоў паводле праекта італьянскага архітэктара Л.Фрэдра. У будоўлі ўдзельнічалі архітэктары К. і П. Пуціні, С.Мядэкша, П.Перці, Я.Заар. Будаўніцтва касцёла скончана каля 1696, рэканструяваны пасля 1755 і ў 1790—93 (архітэктар П. дэ Расі). У 18 ст. пабудавана вежа. Кляштар рэканструяваны і пашыраны ў 1718—55. У 1831 зачынены, пасля там уладкаваны правасл. манастыр (дзейнічаў да 1915). Касцёл у 1832—47 перароблены ў правасл. Успенскі сабор. З 1967 тут працаваў філіял Мастацкага музея імя М.К.Чурлёніса. Вядзецца рэканструкцыя будынкаў.

Кляштарны комплекс — адзін з буйнейшых у ВКЛ, складаўся з касцёла, жылых карпусоў, будынка фарэсторыя, вял. двара з 2 аднапавярховымі



**Пажайскі кляштар камедулаў.**

афіцынамі, 13 домікаў для манахаў, 3-ярусная вежы і інш. Касцёл мае план выцягнутага крыжа. У цэнтры 6-вугольны зал з 4 капліцамі, да якога далучаецца круглы прэсбітэрый і сакрысція. Увенчаны 6-гранным купалам (вышыня 53 м). Гал. фасад фланкіраваны 2 вежамі, на якіх знаходзяцца званы і гадзіннік. Фасады касцёла ўпрыгожаны рэльефамі, карнізамі, пілястрамі, балюстрадай. Усх. фасад мае 2-ярусную аркадную галерэю, трохвугольны франтон. Інтэр'ер касцёла ў 1674—84 ўпрыгожаны фрэскамі (мастакі М.*Палоні*, Ф. дэла Крочэ), аздоблены разнымі дубовымі панелямі, лепкай у тэхніцы стука (мастакі М.Вольшэйд, Дж.Мерль аднапавярховыя), шырока выкарыстаны чорны, белы і чырвоны мармур.

Кляштарныя карпусы 1- і 2-паверховыя, маюць цыліндрычныя і крыжовыя скляпенні, драўляныя столі. Будынак фарэсторыя з 2 аднапавярховымі флігелямі (у паўд. частцы раскошная зала фундатараў кляштара), у цэнтры знаходзіцца 2-ярусная брама са званіцай; некаторыя памяшканні перакрыты ветразевымі скляпеннямі, упрыгожаны фрэскамі. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 141.

*Літ.*: Kairiūkštytė-Jacinienė H. Pažaislio vienuolynas ir jo meninės vertenybės. Kaunas, 1930; Kairiūkštytė-Jacinienė H., Baršauskas J. Pažaislis. Vilnius, 1960; Meškauskas S. Pažaislis. Vilnius, 1983; Яго ж. Klasztor kamedułów w Pożajściu // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1992. T. 5; Paknys M. Nowe żródła o artystach w Pożajściu za czasów mecenatu K.Z.Paca // Sztuka kresów wschodnich. Kraków, 1997. T. 3. Šinkūnaitė L. Program ikonograficzny zespołu klasztoru Kamedułów w Pożajściu // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Пазнанскі зборнік**, рукапісны помнік беларускай літаратуры 16 ст. Узнік каля 1580, відаць, на Навагародчыне ў асяроддзі бел. шляхты. Змяшчае творы стараж. Бел. перакладной і арыгінальнай л-ры, якія адсутнічаюць у інш. рукапісах: *«Аповесць пра Трышчана»*, *«Аповесць пра Баву»*, *«Гісторыя пра Атылу»*, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» поўнай рэдакцыі (*летапіс Рачынскага*). Пераклады рыцарскіх раманаў П.з. маюць агульны загаловак «Повесть о витязех с книг сэрбских, а звлаща о славном рыцэры Трысчане, о Анцалоте и о Бове и о иншых витезех добрых». Тэксты твораў адметныя багаццем і чысцінёю бел. літ. мовы таго часу. Рукапіс адкрыты ў 1846 В.Бадзянскім. Даследаваны А.Брукнерам. Бел. аповесці з П.з. ўпершыню апублікаваў А.Весялоўскі (1888), летапіс — С.Пташыцкі ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907). Зберагаецца ў Публічнай б-цы імя Э.Рачынскага ў Познані (Польшча).

*Літ.*: Веселовский А. Из истории романа и повести: Материалы и исследования. Вып. 2. Славяно-романский отдел. СПб., 1888.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**паканёўшчына**, дзяржаўны падатак у ВКЛ у 16—17 ст. Спаганялася з беднай шляхты, якая не мела магчымасці служыць у войску, або з тых, хто не жадаў асабіста або са сваім початам (атрадам) адпраўляцца ў войска. У 1561 памер П. — 2 капы грошаў замест *каня* (конніка). П. называлі таксама штраф з шляхціцаў, якія не з'явіліся на вайну. У 1520 яна складала палову капы грошаў (у 15 ст. за гэту правіннасць мог быць канфіскаваны маёнтак).

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 677.

**Пакарклiс** (Pakarklis) Повілас (23.6.1902, в. Смільгяй Купішкскага р-на, Літва—23.11.1955), літоўскі гісторык, юрыст. Чл.-кар. АН Літвы (1946), д-р юрыд. навук (1951), праф. (1943). У 1940 міністр юстыцыі Нар. ўрада, у 1940—44 нар. камісар юстыцыі. У 1940 дэпутат Нар. сейма. Выкладаў у Вільнюскім (1940—41, 1944—55), Алма-Ацінскім (1941—43) і Маскоўскім (1943—44) ун-тах. У 1946—48 дырэктар Ін-та гісторыі АН Літвы. Арганізоўваў археаграфічныя экспедыцыі ў Калінінградскай вобл., у ходзе якіх былі знойдзены рукапісы К.Данелайціса, М.Прэторыуса і інш. Даследаваў барацьбу літоўцаў з крыжакамі, становішча літ. насельніцтва пад уладай Тэўтонскага ордэна, гісторыю каталіцкай царквы. Аўтар прац «Малая Літва ў святле нямецкай навукі» («Mažoji Lietuva vokiečių mokslo šviesoje», Каунас, 1935), «Барацьба літоўцаў супраць крыжакоў» («Lietuvių kova prieš kryžiuočius», Панявежыс, 1945), «Нарыс дзяржаўнага ладу Тэўтонскага ордэна» («Kryžiuočių valstybės santvarkos bruožai», Каунас, 1948).

**Паклонскі** Канстанцін Вацлаў Юр'евіч (?—пасля 1661), палкоўнік беларускі, военачальнік у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. З пінскай шляхты герба «Слепаўрон». Выразнік інтарэсаў правасл. колаў Магілёва. У пачатку вайны перайшоў на бок рас. цара Аляксея Міхайлавіча, ад якога атрымаў грошы, некалькі вёсак

(падараванні былі і пазней) і званне бел. палкоўніка, што давала права на набор войска з мясцовага насельніцтва. Войска П. хутка дасягнула 6 тыс. чал. На працягу жн. 1654 узяў Чавусы і Магілёў (разам з арміяй ваяводы М.Ваейкава). На падуладных тэр. усх. Беларусі спрабаваў праводзіць самастойную палітыку, незалежную ад царскага ўрада і асабліва ўкр. казакоў, што прывяло да жорсткага супрацьстаяння і баявых дзеянняў з наказным гетманам укр. казацкага войска І.*Залатарэнкам*. Да канца 1654 казакі былі выцеснены з Магілёўшчыны. У Магілёве загадаў знішчыць амаль усіх яўрэяў. У час аблогі горада войскам Я.Радзівіла ў 1655 па прапанове апошняга перайшоў на бок ВКЛ. У гэтым жа годзе пацярпеў паражэнні ад рас. войск пад Барысавам і Койданавам, ад казакоў Залатарэнкі пад Ашмянамі. З восені 1655 завербаваны ў войска брандэнбургскага электара Фрыдрыха Вільгельма, саюзніка Рэчы Паспалітай. Праз некалькі месяцаў, з-за здрады электара, удзельнічаў у паходзе на Прусію пад кіраўніцтвам В.Гасеўскага. 22.10.1656 у час бітвы са шведамі пад Філіпавам трапіў у палон, зняволены ў Мальбаркскім замку. Выйшаў на волю паміж 1658 і 1660. На вайсковую службу больш не пайшоў. Ахвяраваў уласныя сродкі на ўзбраенне войск ВКЛ.

*Андрэй Шпунт.*

**Пакта канвента** (лац. Pacta conventa), пагадненне публічна-прававога характару паміж шляхтай Рэчы Паспалітай і новаабраным каралём. Фіксавала індывідуальныя абавязкі манарха: забяспечыць фінансавую дапамогу дзяржаве, выплаціць даўгі папярэдняга караля, вярнуць у склад дзяржавы страчаныя тэрыторыі, будаваць замкі на межах, развіваць флот і артылерыю, выкупляць з татарскага палону «рускую» шляхту, не прызначаць іншаземцаў на дзярж. пасады, захоўваць шляхецкія вольнасці, не ўжываць тытул «дзедзіч» (г.зн. спадчынны манарх), не выкарыстоўваць войска супраць шляхты і інш. Упершыню заключана ў 1573 пры абранні на трон Генрыка Валезы разам з *Генрыкавымі артыкуламі*. П.к. рыхтаваў нанава пры кожным абранні караля элекцыйны сойм, з канца 17 ст. — яго спец. камісія з некалькіх сенатараў і паслоў ад ваяводстваў. У час апошніх элекцый змест П.к. мала мяняўся. Пасля прысягі караля на П.к. яму ўручаўся дыплом элекцыі — на абранне яго каралём. Іл. гл. ў т. 1, с. 161.

*Літ.*: Sobociński W. Pakta konwenta. Kraków, 1939.

*Валерый Пазднякоў.*

**«Пакуты Хрыстовы»**, умоўная назва розных літаратурных твораў рэлігійнай тэматыкі, у якіх адлюстраваны фундаментальны для хрысціянства сюжэт з апошніх дзён жыцця Хрыста (арышт, допыт, асуджэнне, катаванне, пакуты і смерць на крыжы), а таксама яго цудадзейнае ўваскрэсенне. Літ. творы гэтай тэматыкі з 8—10 ст. сталі папулярнымі ў зах. царкве. Яны грунтуюцца на апавяданні кананічных Евангелляў і апакрыфічнага Евангелля паводле Нікадзіма, у якім выкладаюцца дэталі асуджэння і смерці Хрыста. Трапляючы да зах. зборнікаў жыцій і легенд, яны аздабляліся мастацкімі і фантастычнымі рысамі. У пісьменстве ВКЛ «П.Х.» вядомы з 2-й пал. 15 ст. і прадстаўлены перакладам з польскай мовы, але польскі ці лацінскі арыгінал не адшуканы. У бел. «П.Х.» апавяданне вядзецца згодна з Евангеллем паводле Нікадзіма, за выключэннем пачатковай часткі (т.зв. пасіі), якая не мае аналогій у тагачасным усх.-слав. пісьменстве. У ёй апісваюцца асуджэнне і пакуты Хрыста, а таксама хваляванні Багародзіцы. Захавалася некалькі рукапісаў бел. «П.Х.» канца 15—16 ст. (цяпер знаходзяцца ў Расіі) на старабел. і царк.-слав. мовах, адрозных паводле зместу (выдадзены М.Тупіковым).

Пад назвай «П.Х.» часам фігуруюць розныя рэдакцыі Евангелля паводле Нікадзіма, якое ў царк.-слав. перакладзе адзначаецца з 13 ст. і вядома ў мностве фрагментаў і рукапісаў да 19 ст. (некалькі разоў публікаваліся ў 19 ст.). У склад гэтага твора маглі дадавацца таксама інш. апакрыфічныя і літ. творы (у т.л. казанні Кірылы Тураўскага). З 17 ст. вядомы спісы гэтых «П.Х.» на старабел. мове з укр. рысамі ў мове (выдадзены І.Франко). Асаблівую папулярнасць царк.-слав. «П.Х.» набылі сярод старавераў, на замову якіх базыльяне выдалі твор друкам (Супрасль, каля 1789). Гэтая публікацыя некалькі разоў перавыдавалася ў 1790-х г. у стараверскай друкарні Ф.Карташова ў Клінцах (з фіктыўнымі выхаднымі звесткамі), а таксама ў канцы 18—пач. 19 ст. ў Пачаеве і Львове (без выхадных звестак).

*Публ.*: Франко І. Апокріфи і леґенди з українських рукописів: (Апокріфи новозавітни. Апокріфічни Євангелія). Львів, 1899. (Пам'ятки українсько-руської мови і літератури. Т. 2); Тупиков Н.М. Страсти Христовы в западно-русском списке XV века. СПб., 1901. (Памятники древней письменности и искусства. Вып. 140).

*Літ.*: Булгаков Ф.И. Сказание о страстях господних. СПб., 1878—79. (Памятники древней письменности и искусства. Вып. 1). С. 153—185; Карский Е.Ф. Западнорусский сборник XV-го века, принадлежащий Императорской публичной библиотеке, Q.I. № 391: Палеографические особенности, состав и язык рукописи // Изв. Отделения русского языка и словесности Императорской академии наук. 1897. Т. 2, кн. 4; Савельева О.А. Пассийные повести в восточнославянских литературах: Вопросы текстологии // Христианство и церковь в России: (Материалы). Новосибирск, 1989; Яе ж. Пассийные повести в восточнославянских литературах: К постановке вопроса // Общественное сознание, книжность, литература периода феодализма. Новосибирск, 1990; Яе ж. Апокрифическая повесть «Страсти Христовы»: Некоторые вопросы структуры и поэтики // Евангельский текст в русской литературе XVIII—XX вв. Петрозаводск, 1994; Жураўскі А.І. «Пакуты Хрыста» // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994.

*Ігар Клімаў.*

**паланенікі**, палонныя ў ВКЛ, адзін з відаў *чэлядзі нявольнай*. Выконвалі *паншчыну* і інш. работы, жылі пры дварах феадалаў, некаторыя мелі сваё жыллё і надзелы зямлі. Статут ВКЛ 1529 у ліку 4 крыніц папаўнення чэлядзі нявольнай называе П., «которые полоном заведены суть з земли неприятельское». Паступова палон як крыніца папаўнення чэлядзі нявольнай страціў сваё значэнне. П. часта выкуплялі і як феадальна-залежных сялян саджалі на зямлю, ператвараючы іх у *агароднікаў*. Заканадаўства ВКЛ 16 ст. было накіравана на памяншэнне колькасці чэлядзі нявольнай, ператварэнне яе ў сялян, якія займаліся апрацоўкай зямлі. У Статуце ВКЛ 1588 вызначана, што «неволники вперед не мають быти з иных причин, одно полоненики, а иншая челядь неволная и теж дети, потомки полонеников мають быти



осаживаны на землях и розумены быти за отчичов». Статут адмяняў таксама назву «челядь невольная» і ўказваў, што ў далейшым гэта катэгорыя насельніцтва будзе называцца «челедью дворною отчызною материстою купленою або полонениками». Збеглых П., як і інш. чэлядзь, належала шукаць і вяртаць з усёй сям'ёй і маёмасцю феадалу. П. нельга было завяшчаць маёмасць, не падараваўшы ім спачатку свабоду.

*Таісія Доўнар.*

**Паланецкі універсал**, заканадаўчы акт, падпісаны Т.*Касцюшкам* 7.5.1794 у лагеры каля мяст. Паланец пад Сандамірам у час *паўстання 1794*. Складзены пры ўдзеле Г.*Калантая*. Быў 1-й спробай усебаковага рэфармавання становішча сялян у Рэчы Паспалітай, меў на мэце прыцягнуць іх да ўдзелу ў паўстанні. Абвясціў аб прадастаўленні сялянам асабістай свабоды пры ўмове іх разліку з землеўладальнікам, скарачэнні паншчыны на 33—50% у часе паўстання і яе адмене для сялян, якія далучыліся да паўстання, прызнаў права сялян на зямлю, якую яны апрацоўвалі, і забараніў іх згон. У якасці кампенсацыі землеўласнікам за змяншэнне паншчыны П.у. прадугледжваў заключэнне з сялянамі дагавораў аб наёмнай працы (фактычна прымусовай). Быў устаноўлены інстытут дазорцаў, якія павінны былі разглядаць спрэчкі паміж сялянамі і землеўласнікамі. Рэалізацыя універсала сустрэла процідзеянне шляхты. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) рэформы, прадугледжаныя П.у., скасаваны новымі дзярж. ўладамі.

*Літ.*: Akty powstania Kosciuszki. T. 1. Kraków, 1918; Kowecki J. Uniwersał połaniecki i sprawa jego realizacji. Warszawa, 1957.

*Валерый Пазднякоў.*

**палемічная літаратура**, публіцыстычная літаратура ВКЛ (пераважна ў 16—17 ст.), у якой узнімаліся вострыя праблемы сацыяльна-палітычнага жыцця, дагматыкі, гісторыка-культурных працэсаў у дзяржаве. Прадстаўлена рукапіснымі і друкаванымі помнікамі на царк.-слав., старабел., укр., польскай і лацінскай мовах. Уключала палемічныя трактаты, развагі, памфлеты, апалогіі, адозвы, абароны і інш. Рэфармацыйная публіцыстыка прадстаўлена творамі як бел., так і польскіх пісьменнікаў, рэліг. і дзярж. дзеячаў: С.*Буднага*, А.*Волана*, Л.*Крышкоўскага*, М.*Радзівіла* Чорнага, М.*Чаховіца*, *Якуба з Калінаўкі* і інш. Асобныя палемічныя пасажы прысутнічаюць у прадмове да Евангелля В.*Цяпінскага*. П.л. эпохі контррэфармацыі ў ВКЛ пачалася трактатам Б.Гербеста «Указанне шляху» (1566), а таксама кнігай езуіта П.*Скаргі* «Пра адзінства касцёла Божага пад адзіным пастырам» (1577, 2 выд. 1590). У адказ з'явіліся ананімныя рукапісныя правасл. творы: «Пасланне да лацін з іх жа кніг», «На богамярзотную, на паганую лаціну», «Павучанне, нанова складзенае ў Літваніі» (каля 1581, 1582). Літ. палеміка на Беларусі асабліва актывізавалася напярэдадні і пасля заключэння *Берасцейскай уніі 1596*. З каталіцка-уніяцкага боку з'явіліся творы І.*Пацея* «Унія» (1595) , «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай» (1597), «Адказ на ліст Кірыка Астрожскага» (1598), «Ліст да князя Канстанціна Астрожскага» (1598), «Антырызіс» (1600), «Адказ на ліст Мялеція, александрыйскага патрыярха» (1601), А.Шчаснага-Жаброўскага «Куколь, які рассявае Стафан Зізаній» (1595). Да найб. значных твораў правасл. палемікі належаць трактаты С.*Зізанія* «Казанне святога Кірылы Іерусалімскага пра антыхрыста» (1596), Хрыстафора Філалета «Апокрысіс» (1597, 1598), Клірыка Астрожскага «Гісторыя пра Лістрыкійскі, г.зн. разбойны Ферарскі або Флярэнскі сінод» (1598). Значная колькасць твораў П.л. ўзнікла ў 1-й трэці 17 ст.: «Антыграфіі...» (1608), «Трэнас» М.*Сматрыцкага* (1610), «Адказ на ліст віленскіх уніятаў» А.Мужылоўскага (1616), «Палінодыя...» З.Капысценскага (1619—20); з каталіцка-уніяцкага — «Гармонія...» і «Ерасі...» Пацея (1608), «На трэны і лямант Тэафіла Арталога... перасцярога» Скаргі (1610), «Парэгорыя» І.Марахоўскага (1612), «Абарона уніі» Л.*Крэўзы* (1617) і інш. Новая хваля літ. палемікі была выклікана аднаўленнем вышэйшай правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай у 1620 іерусалімскім патрыярхам Феафанам. Высокім грамадзянскім гучаннем прасякнуты «Апраўданне невінаватасці» і «Абарона апраўдання» (1621), «Эленхус» (1622), «Суплікацыя і Юстыфікацыя» (1622) М.Сматрыцкага, «Антыдотум» Мужылоўскага (1629), «Антапалогія» Г.Дзіпліца (1631). З уніяцкага боку з'явіліся творы І.*Руцкага* «Двайная віна» (1621) і «Экзамен абароны» (1622), А.*Сялявы* «Антыэленхус» (1622), Сматрыцкага «Апалогія» (пасля яго пераходу ў унію, 1628), «Парэнезіс» (1629), «Экзатэзіс» (1629). У 1640-я г. з боку праваслаўных з'явіўся «Дыярыуш» *Афанасія Берасцейскага*, з боку уніятаў — «Абарона святой саборнай апостальскай царквы» (1638), «Праўдзівы каляндар хрыстовай царквы» (1644), «Іерархія» (1644); «Вобраз праваслаўнай царквы» І.*Дубовіча* (1645), «Стары каляндар» (1640), «Кіеўскі Сабор схізматыкаў» (1642), «Дыялог» (1642), «Акуляры старому календару» (1644) К.Саковіча. У сярэдзіне 16—18 ст. П.л. развівалася пераважна на тэр. Украіны. Вялася палеміка паміж *Пятром* Магілам — «Літас» (1644) і Саковічам — «Перспектыва» (1642) і «Кайло, або Молат на крушэнне камянёў схізмы» (1646). Палемічнай завостранасцю вызначаліся творы уніятаў П.Боймы, Ц.*Жахоўскага*, Я.А.*Кулешы*, Т.Руткі, а таксама правасл. дзеячаў *Лазара* Барановіча, Іаанікія Галятоўскага, Інакенція Гізеля і інш. Палемічныя трактаты, дыскусіі, абвяржэнні сталі асноваю стварэння багаслоўскіх прац па гісторыі праваслаўя, каталіцызму, уніяцтва і інш. хрысціянскіх канфесій. Асобныя творы П.л. перавыдадзены ў 19—20 ст., большасць з іх маладаследаваныя, з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

*Літ.*: Попов А. Историко-литературный обзор древнерусских полемических сочинений против латинян (XI—XV вв.). М., 1875; Загайко П.К. Українські письменники-полемісти кінця XVI—початку XVII ст. в боротьбі проти Ватікану і унії. Київ, 1957; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. З старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 1968; Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1998; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура. Мн., 1998.

*Уладзімір Кароткі.*

**Палемон**, легендарны князь літоўска-беларускіх летапісаў, паданне пра якога стала асновай шляхецкай ідэалогіі ВКЛ. Паводле асн. версіі, П. быў сваяком («рымскім князем») рымскага імператара Нерона, але з-за жорсткасці імператара ўзначаліў у 1 ст. н.э. ўцёкі 500 сем'яў знатных рымлян. У пра-



цах гісторыка 16 ст. М.*Стрыйкоўскага*, які абапіраўся на больш раннія летапісы, гэта падзея датавана 401 г. і прычынай уцёкаў названы зверствы правадыра гунаў Атылы. 2 версіі гэтай падзеі змешчаны ў *Хроніцы Быхаўца* (пры гэтым П. названы Апалонам) і *Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай*. Паводле легенды, уцекачы прыбылі морам у Жамойць, падняліся па Нёмане да р. Дубіса «и назвали тую землю Жомойт, от розмноженя». Сярод асоб, што прыбылі з П., летапісцы вылучаюць Даўспрунка герба «*Кітаўрас*», Прэштара герба «*Калюмны*», Ульянуса герба «Урсын», Гектара герба «Рожы». П. меў сыноў Борка, Кунаса і Сперу, якія пасля смерці бацькі падзялілі яго ўладанні, збудавалі г. Юрбарг і Коўна. Ад Кунаса паўшоў род літ. князёў, якія панавалі ў Жамойці, Літве, Полацку (Мінгайла, Гінвіл-Барыс, Глеб, Рагвалод-Васіль), Навагародку (Ердзівіл-Скірамант, Мінгайла, Шкварн-Ямант, Скіргайла, Альгімант, Рынгальт; паводле інш. варыянта падання, нашчадкамі Мінгайлы былі Скірмант, Тройнат, Альгімант, Рынгальт, Міндоўг, Войшалк). На Рынгальце род П. скончыўся, і навагародцы запрасілі на пасад князя літоўскага і жамойцкага Швінтарога (Швінтарагайлу), сына Уценуса герба «Кітаўрас». Пасля смерці бацькі Швінтарог стаў гаспадаром аб'яднанай дзяржавы Вял. княства Літоўскага, Жамойцкага, Навагародскага, Рускага. Яго нашчадкі ўтварылі род вял. князёў (Герант, Трабус, Гілігін, Нарумунт, Даўмонт, Гольша, Гедрус, Трайдзен). На Трайдзене гэты род згас, і на пасад быў абраны Віцень герба «Калюмны», да якога ўзведзены рэальна існуючыя вял. князі ВКЛ. Паданне не адзначае, да якога герба належаў П. Паводле ускосных меркаванняў, ён належаў да герба «Кітаўрас», які меў Швінтарог; Стрыйкоўскі ж сцвярджаў, што да герба «Калюмны», аднак гэта версія не была ім падмацавана.

Упершыню легенду пра рымскае паходжанне знаці ВКЛ выклаў гісторык 15 ст. Я.*Длугаш*. Ён аднёс перасяленне «італьянцаў» у будучую Літву да часоў Цэзара, аднак не назваў імя П. і яго спадарожнікаў. Легенда пра П. адсутнічае ў *Супрасльскім летапісе* (1519), пэўна, у гэты час яна яшчэ афармлялася. 3 бел.-літ. летапісаў самы стараж. варыянт легенды пра П., на думку М.Улашчыка, змяшчае *Еўраінаўскі летапіс*. Пазнейшыя летапісцы імкнуліся выправіць недарэчнасці першапачатковага варыянта. *Мацей з Мехава* ў «Трактаце пра дзве Сарматы» і *Міхалон Літвін* выкладалі сказанне паводле Длугаша. Крытычна да легенды ставіўся М.*Бельскі*, а І.*Бельскі* прыняў варыянт падання паводле Стрыйкоўскага. А.*Ратундус* лічыў сказанне пра П. верагодным і сведчаннем пра высокае паходжанне дынастыі Ягелонаў, а таксама меркаваў, што іх продак з роду «Калюмнаў» кн. Віцень быў у прамой лініі нашчадкам стараж.-рымскага дзеяча Публія Лібона, які з-за неахайнасці перапісчыкаў ператварыўся ў П.

Сказанне пра П. і яго нашчадкаў узвышае ролю Навагародскай зямлі ў параўнанні з уласна Літвой і Жамойцю. У легендзе пасля пабудовы літ. князямі Навагародка вял. ўвага аддаецца гэтаму гораду (паводле падлікаў Улашчыка, каля 80% «легендарнага» тэксту датычыць Навагародка і Навагародскага княства), толькі яго ўладары носяць тытул вял. князя; указваецца, што ўладарылі Навагародкам, і толькі ім, прамыя нашчадкі П., а князі Літвы і Жамойці — нашчадкі васалаў П., другарадных дзеячаў. Улашчык меркаваў, што легенда пра П. і яго акружэнне канчаткова афармілася ў Навагародку па ініцыятыве навагародскага ваяводы ў 1530—42 С.Гаштольда (яго род часам выкарыстоўваў герб «Калюмны»). Легенда пра П. падобна на інш. сказанні пра замежнае паходжанне пануючых родаў, што былі пашыраны ў сярэдневяковай Еўропе. Дынастыі Ягелонаў падобная легенда патрэбна была для доказу свайго высокага паходжання, бо ў Нямецкім ордэне існавалі меркаванні, што вял. кн. Гедзімін быў простым збраяносцам князя Віценя. Легенда пра рымскае паходжанне Ягелонаў павінна была садзейнічаць умацаванню суверэнітэту ВКЛ, супрацьстаяць тэр. прэтэнзіям з боку Польшчы і Маскоўскай дзяржавы. Яе адметнасцю было тое, што побач з П. выступаюць яго паплечнікі з уласнымі гербамі, а таксама названа вял. колькасць перасяленцаў. Гэта сведчыць пра тое, што ў ходзе выпрацоўкі легенды ўлічваліся інтарэсы магнатаў і шырокага кола шляхты ВКЛ, якая атрымала магчымасць абгрунтоўваць сваё шляхецкае паходжанне спасылкамі на акружэнне П. Рымскія карані вышуквала і бел. шляхта. Стрыйкоўскі ўказваў, што нашчадкі аднаго з васалаў легендарнага князя Ердзівіла (Ейкшы) хутка так памножыліся, што Навагародская, Гарадзенская, Ваўкавыская і Мсціслаўская землі аказаліся запаланёнымі шляхтай з гэтага роду; астатнія з акружэння Ердзівіла, каму ён раздаў «на Русі» паветы, хутка пабраталіся і пакуміліся з «руссю, хрысціянамі». Паходжанне бел. шляхты ад «рымскай» падмацоўвалася і бел. этымалогіяй геаграфічных назваў, што давалі «рымляне» пасля прыбыцця ў Прыбалтыку. Легенда пра П. супрацьстаяла ідэалогіі *сарматызму*, паводле якой польская шляхта паходзіла ад стэпавых качэўнікаў сарматаў, адлюстроўвала імкненне шляхты ВКЛ даказаць сваё больш знатнае паходжанне ў параўнанні з польскай. Гэта адпавядала і інтарэсам магнатаў ВКЛ, якія выступалі супраць *Люблінскай уніі 1569* з Польшчай (з акружэння П. выводзілі свае карані Радзівілы, Пацы, Сапегі).

*Літ.*: Zachara-Wawrzyńczyk M. Geneza legendy o rzymskim pochodzeniu Litwinów // Zeszyty Historyczne Uniwersytetu Warszawskiego. Warszawa, 1963. [T.] 3; Kulicka E. Legenda o rzymskim pochodzeniu Litwinów i jej stosunek do mitu sarmackiego // Przegląd Historyczny. 1980. Z. 1; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Грацыёці С. Фантастычная і рэальная Літва ў старажытных беларускіх хроніках // Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі. Мн., 1994; Латышонак А. Палямон: Коды легенды // Наша ніва. 2006. 6 студз.

***Валерый Пазднякоў.***

**паліцыя**, гл. ў арт. *Камісія паліцыі абодвух народаў, Камісія паліцыі Вялікага княства Літоўскага.*

**Палоні** (Paloni, Polloni) Мікельанджэла (29.9.1642, мяст. Кампі Бізэнцыо каля Фларэнцыі, Італія — паміж 1711 і 1713), жывапісец. У 1660—70-х г. вучыўся ў майстэрні Б.Франчэскіні, потым у Фларэнтыйскай акадэміі. Па запрашэнні канцлера ВКЛ К.Ж.Паца ў 2-й пал. 1676 прыбыў у Літву. У 1677—85 распісваў *Пажайскі кляштар камедулаў* (тэма пакутаў Хрыста і Еўхарыстыі). У цяперашні час з ліку карцін, напісаных П. у Пажайсцы алеем, вядомыя ары-



М.**Палоні**. Цуд каля труны св. Казіміра. Фрэска ў Віленскім кафедральным касцёле.

гіналы «Укрыжаваны», «Св. Банавентура, які атрымлівае камунію ад анёла», «Ісус сярод вучняў» і копія 18 ст., якая паўтарае кампазіцыю «Ахвярапрынашэнне Хрыста ў храме». У 1679 напісаў партрэт вял. гетмана ВКЛ М.К.Паца (знік) для вял. князя Тасканы Козіма III Медзічы. Пасля смерці К.Ж.Паца (1684) і спынення працы па дэкарыраванні кляштара пераехаў ў Варшаву. У 1692 па даручэнні вял. гетмана ВКЛ Я.К.Сапегі і жамойцкага біскупа К.Паца П. дэкарыраваў капліцу св. Казіміра *Віленскага кафедральнага касцёла*. Фрэскі П. «Цуд каля труны св. Казіміра» («Уваскрэсенне дзяўчыны з мёртвых») і «Адкрыццё труны св. Казіміра», якія яе ўпрыгожваюць, лічацца шэдэўрамі мастака. У той жа час П. дэкарыраваў палац Сапегі на Антокалі (зафарбаваныя ў 19 ст.). У 1706—07 перасяліўся ў Венграў, дзе дэкарыраваў парафіяльны і фрацысканскі касцёлы. Відаць, памёр у Венграве. Стылістыка творчасці П. індывідуальная, спалучае элементы жывапісу фларэнтыйскай і інш. італьянскіх школ. П. прымяніў сродкі ілюзіяністычнага жывапісу. Эфектныя, сцэнаграфічныя кампазіцыі з архітэктурнымі кулісамі сведчаць, што П. быў знаёмы з венецыянскім жывапісам 16 ст., асабліва з працамі П.Веранезе, а ілюзіяністычныя прыёмы, выкарыстаныя ў фрэсках касцёлаў у Ловечы і Венграве, паказваюць, што П. наведваў Рым і быў знаёмы з мясц. мастацтвам.

*Літ.*: Karpowicz M. Działalność artystyczna Michelangelo Palloniego w Polsce. Warszawa, 1967; Paknys M. Nowe źródła o artystach w Pożajściu w kręgu mecenatu Krzysztofa Zygmunta Paca // Biuletyn Historii Sztuki. 2000. № 1/2.

***Вольга Бажэнава, Уладзімір Свяжынскі.***

**Палонкаўская бітва 1660.** Адбылася 28 чэрв. каля мяст. Палонка паміж Слонімам і Ляхавічамі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Пасля заключэння *Аліўскага міру 1660* са Швецыяй войска Рэчы Паспалітай на чале з П.Я.Сапегам і С.Чарнецкім перайшло ў наступленне на рас. армію. З Берасця праз Слонім яны рушылі на дапамогу гарнізону Ляхавіцкага замка, які быў абложаны войскам І.А.Хаванскага. Даведаўшыся пра гэта, Хаванскі з большай часткай сваёй арміі (8 тыс. чал.) выступіў ім насустрач. Войскі сустрэліся пад Палонкай. Хаванскі з конніцай стаў на правым флангу, на левым — кн. В.Шчарбаты, пасярэдзіне — рэйтары і пяхота. У цэнтры баявога пастраення войска Рэчы Паспалітай размясцілася дывізія Чарнецкага (4 тыс. чал.), а па флангах — харугвы Сапегі, А.Г.Палубінскага і С.Кміціча (6 тыс. чал.). Атака гусараў Рэчы Паспалітай была такой імклівай, што рас. пяхота, якая стаяла перад пераправай, змагла зрабіць толькі адзін залп, была змята, пасечана і патоплена. Паспяховай была атака гусараў і панцырных, якія прымусілі рас. конніцу ўцякаць. Пасля гэтага быў нанесены супольны ўдар па астатняй рас. пяхоце. Бітва скончылася поўным разгромам войск Хаванскага: загінула каля 2 тыс. чал. пяхоты, яшчэ больш коннікаў; мноства ратнікаў, у т.л. Шчарбаты, трапіла ў палон. Хаванскі з рэшткамі войска адступіў да Ляхавіч, зняў аблогу замка і пачаў імклівы адыход на Полацк. Войску Рэчы Паспалітай дасталіся вялізныя трафеі, мноства гармат, харчу. П.б. была першай буйной перамогай войска Рэчы Паспалітай на заключным этапе вайны, якая засведчыла пераход да яго стратэгічнай ініцыятывы.

*Літ.*: Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995. С. 96—97; Курбатов О.А. «Литовский поход 7168 года» князя И.А.Хованского и битва при Полонке // Славяноведение. 2003. № 4; Касажэцкі К. Бітва пад Палонкай 28 чэрвеня 1660 г. // Бел. гіст. агляд. 2004. Сш. 1—2; Бабулин И. Битва под Полонкой, 1660 год // Рейтар. 2005. № 3.

**палонныя**, гл. *Паланенікі*.

**Палубінскія** (Палубенскія), княжацкі род уласнага герба ў ВКЛ. Паходжанне не высветлена, уласны радавод выводзіў іх ад вял. кн. Альгерда. Прозвішча ад с. Палубнікі каля Ліды або ад с. Палюбічы (Палубіца) у Берасцейскім ваяв. У 15 ст. вядомы кн. Фёдар і Андрэй П. Апошні быў на службе ў вял. кн. Казіміра IV, атрымліваў ад яго грошы з корчмаў у Дарагічыне, Берасці, Камянцы і інш., камор у Берасці і Луцку, валодаў маёнткамі на Берасцейшчыне. Ад яго сыноў Васіля і Івана пайшлі галіны роду. Найб. вядомыя:

Васіль Андрэевіч (?—4.3. 1551), дваранін вял. кн. Аляксандра, у 1501 быў адным з гарантаў Мельніцкай уніі з Польшчай. У 1505—07 намеснік ва Уладзіміры-Валынскім. У 1509—11 зняволены па абвінавачванні ва ўдзеле ў *Глінскіх мяцяжы 1508*. Дзяржаўца любашанскі і цяцерынскі ў 1515—16, жалудоцкі ў 1516—35, каняўскі і дубіцкі ў 1527—29, староста мсціслаўскі і радамльскі з 1535, маршалак гаспадарскі з 1521 або 1522. У 1535 кіраваў абаронай Мсціслава ад маскоўскага войска. У 1503 атрымаў ад вял. князя Палюбічы, валодаў таксама Гарадзішчам, Ябланню, Глыбокім, Круглым, Мажэйкавам і інш.

Іван Андрэевіч (?—1556), дваранін гаспадарскі, маршалак гаспадарскі з 1540. У 1549—51 спраўца (адміністратар) Навагародскага ваяв.

Аляксандр Іванавіч (?—1607 або 1608), сын Івана Андрэевіча. Кіраваў ад імя бацькі Навагародскім ваяв. У час Інфлянцкай вайны 1558—82 ваяваў у Інфлянтах, трымаў там Вольмарскае староства. У 1577 трапіў

у палон, але быў адпушчаны царом Іванам IV Грозным. Кашталян навагарод-скі з 1586. У 1596 прымаў удзел у Берасцейскім саборы, праціўнік царк. уніі. Валодаў Дзярэчынам у Слонімскім пав. і інш.

Канстанцін Аляксандравіч (?—1640), унук Аляксандра Іванавіча. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Браневе, Віленскай акадэміі. Удзельнічаў у войнах са Швецыяй 1600—29 і Расіяй 1609—18. Слонімскі пісар земскі ў 1616—21 і маршалак у 1621—27, кашталян мсціслаўскі ў 1627—33, ваявода парнаўскі з 1633, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1627. З праваслаўя перайшоў у каталіцтва, у 1618 фундаваў Дзярэчынскі дамініканскі кляштар. Валодаў Дзярэчынам, Глускам, Глыбокім і інш.

Аляксандр Гіляры (6.8. 1627—3.11.1679), сын Канстанціна Аляксандравіча. Вучыўся ў Віленскай і Замойскай акадэміях, у Кракаве, Галандыі, Францыі. З 1646 неаднаразова выбіраўся пaслом на соймы. Падкаморы слонімскі ў 1650—54, падстолі ВКЛ у 1654, пісар польны ВКЛ у 1654—68, стараста генеральны жамойцкі ў 1669—70, маршалак вялікі ВКЛ з 1669. Вызначыўся ў вайне супраць укр. казакоў, пад камандаваннем Я.Радзівіла ўдзельнічаў ва ўзяцці Мазыра ў лют. 1649, у *Лоеўскай бітве 1649*, бітве пад Белай Царквой 23.9.1651. На чале кавалерыйскіх харугваў браў удзел у асн. ваенных дзеяннях у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67: у бітвах пад Шкловам 12.8.1654 і Шапялевічамі 24.8.1654, аблозе Магілёва ў пач. 1655; у баях супраць шведаў у Польшчы, у вызваленні Менска ў ліст. 1658 і інш. У 1659—60 ваяваў у Інфлянтах. У складзе дывізіі П.Я.Сапегі ўдзельнічаў у *Палонкаўскай бітве 1660*, аблозе Барысава, вызваленні Шклова і Оршы, бітве на р. Бася з войскам Ю.А.Далгарукага, *Кушліцкай бітве 1661*. Валодаў Дзярэчынам, Глускам, Рудобелкай, Дзятлавам, Горамі Вялікімі, Горкамі. З 1655 адміністратар Берасцейскай эканоміі, быў старастам бабруйскім, ваўкавыскім, слонімскім. У 1662 фундаваў Глускі бернардзінскі кляштар. Пасля адрачэння ад трона Яна II Казіміра ў 1668 і смерці Міхала Вішнявецкага ў 1673 выступаў за абранне на трон Рэчы Паспалітай цара Аляксея Міхайлавіча.




Да арт. **Палубінскія**. Маёлікавая кафля з выявай герба А.Г.Палубінскага. Глускі замак. 1670. Раскопкі І.Ганецкай.

Дзмітрый Самуэль (?—8.8. 1687), сын Міхала. Слонімскі падчашы ў 1640—59, харужы ў 1659—60, маршалак у 1660—70, ваявода навагарод-скі з 1670. Пасол на соймы 1632, 1667, 1679, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1655. Удзельнічаў у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.

Аляксандр Райнальд (?—1687?), сын Івана (Януша) Дзмітрыевіча. У 1655 пачаў службу ў войску пад камандаваннем А.Г.Палубінскага, удзельнічаў у буйнейшых бітвах вайны з Расіяй 1654—67, з 1663 паручнік казацкай харугвы. Падстолі слонімскі ў 1667, падсудак у 1668, харужы з 1670. Пасол на соймы 1668, 1674.

Леан Казімір (?—1726), сын Дзмітрыя Самуэля. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Браневе. З 1670-х г. у войску. Належаў да антысапегаўскага лагера. У 1669—1703 неаднаразова выбіраўся паслом на соймы. Цівун і дзяржаўца цверскі з 1689, стараста лікавянскі.

Ежы Антоні (1735—7.8.1801), сын Яна. Святар з 1760, канонік віленскі з 1761, пасля архідыякан, сакратар вялікі духоўны ВКЛ у 1782—93. Падтрымаў паўстанне 1794, быў абраны старшынёй Генеральнай адміністрацыі духоўнага ўрада Віленскай дыяцэзіі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Палхоўскі** Серапіён, гл. *Серапіён*.

**Пальмоўскі** Сава, гл. *Сава*.

**палюбоўны суд**, кампрамісарскі суд, часовы трацейскі суд у ВКЛ у 16—18 ст. Разглядаў усе справы за выключэннем крымінальных, звязаных з інтарэсамі грамадскага скарбу, і спраў паміж трымальнікамі каралеўскіх маёнткаў. Дзейнасць суда рэгламентавана Статутамі ВКЛ 1566 і 1588. Складаўся з некалькіх суддзяў-камісараў, якія выбіраліся бакамі з асоб аднолькавага з імі саслоўя і звання. Выракі П.с. мелі моц рашэнняў дзярж. судоў і апеляцыі не падлягалі, аднак у выпадку нязгоды паміж суддзямі пакрыўджаны бок мог падаць апеляцыю ў Трыбунал ВКЛ. Пры нязгодзе аднаго з бакоў выконваць рашэнне П.с. іншы бок прад'яўляў вырак *земскаму суду*, які забяспечваў яго выкананне. Скасаваны ўказам Мікалая I ад 25.6(7.7).1840.

**Палянаўскі мір 1634**, мірны дагавор паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, падпісаны 17(27) мая—4(14) чэрвеня ў в. Сямлёва на р. Палянаўка паміж Вязьмай і Дарагабужам. Завяршыў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. У перагаворах з рас. боку ўдзельнічалі баярын Ф.І.Шарамецеў і кн. А.М.Львоў, ад Рэчы Паспалітай — каронны канцлер біскуп Я.Задзік, гетман польны ВКЛ К.Радзівіл і інш. Паводле ўмоў П.м. Расія атрымала Сярпейск, Трубчэўск, Ахтырку, Лебядзін. Кароль Уладзіслаў IV афіцыйна адмовіўся ад прэтэнзій на рас. трон і абавязаўся вярнуць арыгінал крыжацалавальнага запісу маскоўскіх баяр 1610 аб яго выбранні рус. царом. Бакі дамовіліся вывесці войскі з захопленых тэрыторый і амбяняцца палоннымі без выкупу і затрымкі.

*Літ.*: Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego: (wytoczona w latach 1634—1648) // Prace Komisji Atlasu historycznego Polski. Kraków, 1935. Z. 3; Поршнев Б.Ф. На путях к Поляновскому миру 1634 г. // Международные отношения. Политика. Дипломатия XVI—XX вв. М., 1964; Шеламанова Н.Б. К истории западной границы России: (Серпейский участок по Поляновскому миру 1634 г.) // Историческая география России, XII—начало XX в. М., 1975.

**Памва** Бярында [свецкае Павел; ?—13(23).7.1632], украінскі і беларускі лексікограф, друкар, пісьмен-


ЛЕѮІКОНЪ,
славеноросскій.
Именъ толкованіе,
Згромаженый.
Лаѵры Печерскія Кієвскія.
Монастыра:
КУТЕИНСКАГО.
Тупомъ издана.

**Памва Бярында**. «Лексікон славенароскі і імён тлумачэнне». Куцейна. 1653. Тытульны ліст.

нік, гравёр. Звесткі пра нацыянальнасць і месца вучобы не выяўлены. Валодаў старабел., царк.-слав., укр., грэчаскай, лацінскай, польскай мовамі. У 1590-х г. працаваў у друкарні Балабанаў у Кіеве, пасля ў друкарні Львоўскага брацтва. Прыняў манаства з імем П. (Памво). Потым стаў архітыпографам (гал. друкаром) друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1620 атрымаў ад іерусалімскага патрыярха Феафана ганаровы тытул протсінгела. Аўтар сілабічных вершаў. Найб. ранні твор — «Да нараджэння Хрыстова» (1616). У Кіеве ўдзельнічаў у выданні кніг «Анфалагіён» (1619), «Номаканон» (1620), «Іаана Златавуста гутаркі» (1623), «Трыёдыён» (1627) і інш. Самы значны твор, над якім П. працаваў 30 гадоў, — двухмоўны «Лексікон славенароскі і імён тлумачэнне» (1627, 2 выд. Куцейна, 1653, пад рэд. *Іаіля* Труцэвіча). Асновай для «Лексікона» паслужыў «Лексіс» Л.*Зізанія* — першы бел. друкаваны слоўнік (1596). Навук. выданне «Лексікона» П. ажыццёўлена ў 1961.

*Літ.*: Сычевская А.И. Памва Беринда и его Вирши на рождество Христово и др. дни // Чтения в ист. о-ве Нестора летописца. 1912. Кн. 23, вып. 1; Коляда Г.И. Памва Беринда и его «Лексикон славенороссийский» // Уч. зап. гос. пед. ин-та. Филол. сер. Сталинабад, 1953. Вып. 3; Німчук В.В. Памво Беринда і його «Лексіконъ славеноросскій и именъ тлъкованїе» // Беринда П. Лексикон словеноросьский (1627). Київ, 1961; Яскевіч А. «У потомных въдячность отнесеть» // Наша слова. 1997. № 4; Яе ж. Паэтычная спадчына Памвы Бярынды і Івана Ужэвіча // Роднае слова. 1999. № 12.

**памесце**, форма феадальнага зямельнага ўладання, пры якім уладальнік абавязаны несці ваенную ці інш. службу дзяржаве. У Беларусі першыя звесткі пра раздачу зямлі пры ўмовах службы адносяцца да сярэдзіны 13 ст. Паняцце «П.» ў сэнсе «зямельная маёмасць» ужывалася рэдка. Зямельныя ўладанні («имения»), якія феадалы-васалы атрымлівалі ад вял. князя ці паноў за ваенную і інш. службу, называліся «даніна» або «выслуга». Землі даваліся ў часовае («дачаснае») і ў пастаяннае («вячыстае») уладанне. З павелічэннем паліт. росту шляхты і аслабленнем улады вял. князя ў 15—16 ст. адбываўся працэс пераўтварэння дачасных данін у *вотчыны*, якія сталі пануючай формай феад. зямельнай уласнасці. Да сярэдзіны 16 ст. большасць зямельнага фонду ВКЛ стала ўласнасцю шляхты. Неабмежаваныя правы шляхты на зямлю замацаваны шэрагам прывілеяў, а таксама Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Пичета В.И. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч. 1. Мн., 1927; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Козловский П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII—первой половине XIX в. Мн., 1982; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**памінальнік**, гл. *Сінодзік*.

**памятнае**, у ВКЛ плата суду за выйграную справу, працэс. Незалежна ад значнасці выйгрышу, яго грашовай сумы і колькасці ўдзельнікаў, на карысць якіх вырашана справа, паводле Статута ВКЛ 1588 П. раўнялася 4 грошам ад кожнага. Неабходна плаціць было П. пры сведчанні судом здзелак аб набыцці нерухомай маёмасці. Напр., асоба, якая атрымлівала маёнтак, павінна была плаціць суддзі 4 грошы, падсудку — 2 грошы. За выпіску з кнігі дакумента аб гэтай здзелцы і прыкладанне да яго пячаткі плата спаганялася асобна.

**панегірык** (ад грэч. panegyrikos logos урачыстая прамова), даўні літаратурны жанр — хвалебная прамова. Адзін з першых помнікаў бел. панегірычнай прозы — «*Пахвала Вітаўту*» (1420-я г.). У 16—17 ст. П. існаваў у форме эпіграмы — рытарычна-вобразным услаўленні магнацкіх гербаў (А.Рымшы на гербы Л.Сапегі і Ф.Скуміна, Л.Мамоніча на герб Сапегі, невядомага аўтара на герб Б.Агінскага і інш.). З сярэдзіны 17 ст. на Беларусі і Украіне пашырылася дэкламацыя — рытарычны хвалебны твор, што ўслаўляў нейкую падзею ці асобу і выконваўся публічна (дэкламацыі Ф.Утчыцкага, І.Іяўлевча, Сімяона Полацкага — «Метры», «Вершы на шчаслівы зварот літасцівага цара з-пад Рыгі», «Віншаванне з выпадку, што ўзяты Дэрпт»). У шырокім сэнсе П. — любы твор хвалебнага характару (напр., С.Буднага князям Радзівілам з нагоды выдання ў Нясвіжскай друкарні бел. кніг — у яго «Катэхізісе», 1562, верш Я.К.Пашкевіча «Полска квитнет лациною...», 1621, прысвечаны роднаму слову). У 19 ст. ў сувязі з агульнай дэмакратызацыяй л-ры П. як жанр знік. Слова «П.» стала ўжывацца пераважна ў іранічным сэнсе.

*Літ.*: Саверчанка І.В. Старажытная паэзія Беларусі, XVI—першая палова XVII ст. Мн., 1992.

***Вячаслаў Рагойша.***

**Панін** Мікіта Іванавіч [18(29).9.1718, г. Данцыг—31.3(11.4).1783], расійскі дзяржаўны дзеяч, граф. У 1747 пасланнік у Даніі, у 1748—60 — у Швецыі, дзе пранікся сімпатыямі да канстытуцыйнай манархіі. У 1760—73 выхавацель вял. кн. Паўла Пятровіча (будучы імператар Павел І). Удзельнічаў ва ўзвядзенні на трон Кацярыны II (1762), хоць бачыў яе толькі ў якасці рэгентшы пры Паўле. З кастр. 1763 кіраўнік Калегіі замежных спраў. Распрацаваў і актыўна праводзіў план «Паўночнага акорду» — саюзу Расіі, Прусіі, Даніі, Швецыі, Англіі і Рэчы Паспалітай супраць Францыі, Аўстрыі і італьянскіх дзяржаў. У рэчышчы гэтага плана і з мэтай забяспечыць пераважны ўплыў Расіі ў справах Рэчы Паспалітай склаў праект стварэння дысідэнцкіх канфедэрацый: пратэстанцкай Тарунскай і пратэстанцка-праваслаўнай *Слуцкай канфедэрацыі*. Акупацыя



Аўстрыяй у 1769 часткі Польшчы пахавала ідэю паўн. саюзу. П. пачаў рыхтаваць доказы правоў Рас. імперыі на частку тэр. Рэчы Паспалітай пры падзеле гэтай дзяржавы паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. За дыпламатычную падрыхтоўку *першага падзелу Рэчы Паспалітай* (1772) П. атрымаў 22.9(2.10).1773 ва ўласнасць 7594 сялян (740 двароў) з 68 тыс. дзесяцінамі зямлі ў Ліснянскім, Клясціцкім і Нішчанскім войтаўствах Полацкай эканоміі. Як масон прадаў атрыманую маёмасць сваім сакратарам, у т.л. драматургу Дз.І.Фанвізіну, які пад кіраўніцтвам П. ў 1773 склаў праект канстытуцыйнага абмежавання манархіі. Абвінавачаны ў змове на карысць цэсарэвіча, П. пазбаўлены ўсіх пасад і пад націскам царадворцаў (гал. ч. Арловых) у 1781 падаў у адстаўку.

*Літ.*: Лебедев П.С. Графы Никита и Петр Панины. СПб., 1883; Чечулин Н. Внешняя политика России в начале царствования Екатерины II. СПб., 1896; Гаврюшкин А.В. Граф Никита Панин: Из истории рус. дипломатии XVIII в. М., 1989.

***Яўген Анішчанка.***

**пансіёны жаночыя**, навучальныя ўстановы для жанчын з агульнаадукацыйным курсам. У ВКЛ з'явіліся, калі тут пачалі дзейнічаць жаночыя каталіцкія манаскія ордэны. Першы жаночы кляштар адкрыты ў 1591 бенедыкцінкамі ў Нясвіжы на сродкі К.М.Радзівіла Сіроткі. У 17 ст. жаночыя манаскія абшчыны дзейнічалі ў многіх гарадах Беларусі. Практычна пры кожным кляштары дзейнічалі П.ж. Для дзяўчынак з незаможных сем'яў яны былі адкрыты пры кляштарах шарытак (сёстры міласэрнасці) і феліцыянак. Шляхцянак бацькі аддавалі ў кляштары візітак, бернардзінак, бенедыкцінак і сакрамэнтак. Напачатку ў П.ж. выкладаліся толькі найб. неабходныя прадметы — чытанне, пісьмо, лічэнне, рукадзелле, танцы і музыка. З сярэдзіны 18 ст. выкладанне стала арыентавацца на Францыю і яе культуру, панавала і французская мова выкладання. Спробу манапалізацыі жаночай адукацыі ў Рэчы Паспалітай зрабілі марыявіткі, манаскі ордэн якіх з'явіўся тут у 1737. П.ж. марыявітак дзейнічалі ў Менску, Мсціславе, Слоніме, Полацку, Оршы, Віцебску, Гародні, Навагародку, Мазыры, Пінску, Бабруйску, Краславе. З 1770-х г. пачалося рэфармаванне жаночай асветы. У 1775 Адукацыйная камісія падрыхтавала рэкамендацыі для настаўніц П.ж. з прыблізнай вучэбнай праграмай. Меркавалася стварыць у краіне шырокую сетку П.ж. (свецкіх і манаскіх), адначасова ўведзена патрабаванне абмежаваць колькасць дзяўчынак у кожнай з іх (не больш за 12 асоб). У навучальны курс планавалася ўключыць польскую мову, арыфметыку, гісторыю, геаграфію, рэлігію, мараль. Але пры ажыццяўленні праекта камісія сутыкнулася з цяжкасцямі кантролю за дзейнасцю П.ж. Для гэтага ствараліся жаночыя «эфараты», куды ўваходзілі найб. адукаваныя жанчыны ваяводстваў, якія павінны былі непасрэдна кіраваць гэтай галіной адукацыі. Камісія выдала для выкладчыц шэраг падручнікаў, у якіх былі змешчаны метадалагічныя інструкцыі па асновах выхавання, у т.л. падрыхтаваных М.Пракаповічам.

*Літ.*: Киприанович Г.Я. К истории женского образования в Западной России. Вильна, 1910; Wroczyński R. Dzieji oświaty polskiej, 1795—1945. Warszawa, 1987.

***Андрэй Самусік.***

**панцыр** (ад лац. pantex жывот), засцерагальны даспех для абароны тулава. Выраблялі П. пераважна з металічных кольцаў ці пласцін таўшчынёй 0,5—2 мм разнастайнай формы, якія нашывалі на скураны або тканы кафтан. П. называлі таксама кальчугі, выкананыя кальчужнай пляцёнкай, камбінацыяй кальчужнага палатна са стальнымі пласцінамі. П. вынайдзены ў бронзавым веку асірыйцамі, якія рабілі доўгае да шчыкалатак адзенне з кароткімі рукавамі і нашытымі па ўсёй паверхні бронзавымі лускамі. Такімі П. карысталіся ў стараж. Егіпце, Грэцыі і сярэдневяковай Еўропе. На Беларусі лускаватыя П. паявіліся ў эпоху Кіеўскай Русі і называліся «бронямі». У 11 ст. паявілася лускаватая «браня». У 14 ст. тэрмін «браня» замяняецца словам «даспех», а ў 15 ст. — «панцыр». Фрагменты П. знойдзены пры раскопках Гародні, Менска, Навагародка, Гомеля, каля Нясвіжа. З удасканаленнем агнястрэльнай зброі П. паступова страцілі сваё значэнне і ў 18 ст. зніклі зусім.

*Літ.*: Кирпичников Л.Н. Военное дело на Руси XIII—XV вв. Л., 1976; Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок: Посад — окольный город. Л., 1981.

**панцырныя баяры**, ваеннаслужылыя людзі ў ВКЛ у 1-й пал. 15—18 ст. Рэкрутаваліся з *зямян*, сельскіх мяшчан і вольных людзей, частку якіх вял. князі і каралі сялілі на свабодных землях уздоўж граніцы ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай (віцебска-пскоўскае і смаленскае парубежжа). На ўмовах бясплатнага карыстання зямлёю і інш. правамі яны прысягалі спраўна несці вайсковую службу (памежную варту), падпарадкоўваліся ўраду мясцовага замка. Паводле дакументаў 16 ст., П.б. абавязваліся заўсёды быць гатовымі да вайны, мець добрага каня з сядлом, панцыр, шлем-прылбіцу з забралам, меч або корд, кап'ё, каляровае адзенне, сагайдак, шчыт-павезу і шпоры. У 17—18 ст. П.б. абавязваліся мець «добрага каня казацкага, дзіду, пару пісталетаў ля лукі і бандалет на поясе». Згодна з каралеўскай граматай 1547, П.б. мелі прывілеі: судзіць іх мог толькі суд; захоўваліся маёнткі, дараваныя папярэднімі каралямі; удава да ўступлення ў 2-і шлюб валодала ўсёй маёмасцю мужа, а пасля шлюбу толькі тым, што ёй выдзеліў і перадаў у спадчыну муж (рэшта аддавалася дзецям, братам ці інш. блізкім родзічам); забаранялася браць у П.б. падводы, коней і выкарыстоўваць на інш. службе, акрамя ваеннай; дазвалялася займацца рамествамі, промысламі і гандлем нароўні з купцамі і мяшчанамі. П.б., якім кароль Уладзіслаў IV пажалаваў двары, мелі права валодаць слугамі і сяліць тут людзей, прадаваць з дазволу караля свае маёнткі. Гэтыя прывілеі пацвярджаліся граматамі розных каралёў, у т.л. апошняй граматай 1764 Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1667 цар Аляксей Міхайлавіч перавёў себежскіх і невельскіх П.б. у разрад «панцырных казакоў» з правам валодання ўсімі землямі, што былі ў іх карыстанні. Далучаныя пазней зноў да Рэчы Паспалітай, казакі аднавілі свае ранейшыя правы і працягвалі называцца П.б. У 1780 Сенат Рас. імперыі залічыў тых П.б., якія даказалі сваю панцырнасць, у разрад сялян дварцовай канцылярыі і пакінуў за імі ўсе землі і льготы казакоў.

***Міхась Ткачоў.***

**паншчына**, *адработачная рэнта*, дармавая прымусовая праца сялян з уласнымі прыладамі працы ў гаспадарцы феадала; форма эксплуа-



тацыі феадальна залежнага сялянства. Прадукцыйнасць паншчыннай працы была нізкая, прадукцыйныя сілы развіваліся марудна. П. пачала складвацца ў Кіеўскай Русі. На Беларусі вядома з 14 ст. з канчатковым усталяваннем феад. уласнасці на зямлю. Пашырылася ў 15—16 ст., калі склалася фальварковая сістэма (гл. *Фальварак*), якая прывяла да масавага запрыгоньвання сялян. Паводле *«Уставы на валокі» 1557* (гл. таксама *Валочная памера*) за карыстанне *валокай* зямлі цяглыя сяляне павінны былі працаваць на П. 2 дні ў тыдзень, выконваць інш. феад. павіннасці (талокі, згоны); *агароднікі* за надзел абавязаны працаваць на П. 1 дзень у тыдзень. У 18 ст. П. складала 4—8 рабочых дзён у тыдзень з 0,5 цяглай валокі.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974.

**паны**, 1) прадстаўнікі вышэйшых пластоў феадалаў у Чэхіі і Польшчы ў 13—14 ст. Лацінскі адпаведнік у афіцыйных граматах — «barones» («бароны»). У 14—15 ст. у Польшчы тэрмін «П.» ўсё больш замяняўся тэрмінам «можнаўладцы» або «магнаты». 2) У ВКЛ у 15—16 ст., у час юрыд. афармлення шляхецкага саслоўя, другая пасля *князёў* група феадалаў, нашчадкі знатных і заможных баяр, якія мелі буйныя маёнткі. Тэрмін «П.» стала ўвайшоў у мову актавых матэрыялаў з сярэдзіны 15 ст., хоць раўназначны лацінскі тэрмін «бароны» з'явіўся ў граматах раней, у канцы 14 ст. Землі належалі П. паводле вотчыннага права («з поўным правам і панствам»). У Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588, попісах войска ВКЛ 1528 і 1567 і інш. актах згаданы розныя групы П. Заможнейшымі былі П. радныя (паны-рада) — найвышэйшая група найб. буйных духоўных і свецкіх землеўласнікаў, якія адпаведна сваім дзярж. пасадам засядалі ў *Радзе Вялікага княства Літоўскага*. П. (панове) харугоўныя — буйныя землеўласнікі, якія выходзілі на вайну не ў складзе павятовай шляхты, а асобна са сваімі атрадамі васалаў і пад сваім сцягам (харугвай). Проста П. (паняты) — заможныя землеўласнікі, якія ў войску выступалі асобнай харугвай, не змешваючыся з інш. баярствам (шляхтай). Да сярэдзіны 16 ст. П. радныя і харугоўныя падлягалі не мясцовым судам, а *гаспадарскаму суду* або суду велікакняжацкіх камісараў, якія выязджалі на месца. У 2-й пал. 16 ст. паны-рада і князі (княжаты) складалі вышэйшую групу феадалаў ВКЛ — магнатаў. Астатнія П. зліліся з асн. масай шляхецкага саслоўя, якое стала юрыдычна аднастайным.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Бояре и служилые люди в Литовско-Русском государстве // Журн. Мин-ва юстиции. 1907. № 5; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Грицкевич А.П. Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV—XVI) // Первый Литовский Статут 1529 г. Вильно, 1982.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**паны-рада**, гл. *Рада Вялікага княства Літоўскага.*

**Панявеж** (літ. Панявежыс, Panevėžys, цяпер горад, цэнтр Панявежскага пав. і Панявежскага р-на, Літоўская Рэспубліка), горад, цэнтр Упіцкага пав., на р. Нявежыс. Пачатак горада з 1503, калі вял. кн. Аляксандр дараваў пробашчу Рамігольскага касцёла зямлю на правым беразе р. Невяжа, дзе той меў пабудаваць касцёл з правам трымаць карчму. На аснове гэтага паселішча да сярэдзіны 16 ст. склаўся горад Стары П. На Пд ад Старога П., на левым беразе Нявежыса, на аснове гаспадарскага двара П. ўзнік дзярж. горад Новы П. (упамінаецца з 1519), які ў сваім развіцці хутка абагнаў Стары П. У 1554 — 144 сядзібы, 54 карчмы. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 Новы П. стаў цэнтрам Упіцкага пав., тут адбываліся пасяджэнні земскага і гродскага судоў. У 1587 канцлер ВКЛ адчыніў школу. У 1614 у Новым П. пабудаваны новы будынак суда (захаваўся да нашага часу). У 1661 Стары П. атрымаў прывілей на кірмаш і штотыднёвыя таргі. У 1720 тут было 18 дымоў, у 1757 — 22 дымы, у Новым П. ў 1738 і 1764 — адпаведна 66 і 101 дым. У 1727—1831 у Новым П. дзейнічаў піярскі калегіум, з канца 18 ст. — прыходская школа. Пасля пажару Старога П. у 1780 паміж Старым П. і Новым П. у 1782 канонікам Мікалаем Тышкевічам пабудаваны драўляны касцёл і заснавана мяст. Мікалаеў (Пяскі), у 1789 у ім 10 дымоў. 2.11.1791 Новы П. атрымаў гар. правы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Гуковский К., Войнич Е., Синяков И.Н. Город Паневеж: Краткий ист.-статистический очерк // Памятная книжка Ковенской губернии на 1905 год. Ковна, 1904; Довгялло Д.И. Поневежская старина (1585—1587). Вильна, 1910; Maksimaitienė O. Pirmosios žinios apie Panevėžį // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. Ser. A. 1961. № 2; Яе ж. Panevėžys XVI amžiuje // Там жа. 1962. № 1; Яе ж. Panevėžio miesto istorija. Panevėžys, 2003; Panevėžys nuo XVI a. iki 1991 m. Panevėžys, 2003.

**Панявежыс** (Panevėžys), горад у Літоўскай Рэспубліцы, гл. *Панявеж.*

**Панятоўскі** Юзаф Антоні (7.5.1763, г. Вена—19.10.1813), ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, князь, генерал-лейтэнант (1792), маршал Францыі (1813). З роду *Панятоўскіх*, пляменнік караля *Станіслава Аўгуста* Панятоўскага. З 1780 служыў у аўстрыйскай арміі, палкоўнік, ад'ютант імператара Іосіфа II. У 1789 пераехаў ў Рэч Паспалітую, атрымаў чын генерал-маёра каронных войск. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* камандаваў арміяй, якая абараняла лінію Дняпра і Днястра. З-за вял. перавагі сіл праціўніка ўхіляўся ад генеральнай бітвы. 18.6.1792 даў бой пад Зелянцамі, пасля адступіў да Ізяслава, потым вывеў войскі за р. Буг. У знак пратэсту супраць змовы караля з Таргавіцкай канфедэрацыяй падаў у адстаўку і выехаў у Вену. У час *паўстання 1794* вярнуўся, удзельнічаў у абароне Варшавы, пасля капітуляцыі зноў выехаў у Вену. Адмовіўся ад прапаноў Кацярыны II і Паўла I паступіць на рас. службу. З 1798 жыў у сваім маёнтку пад Варшавай. У 1806, калі французскае войска падышло да Варшавы, а прускае пакінула горад, П. стаў на чале мясцовай міліцыі і падтрымаў Напалеона. Са снеж. 1806 камандаваў адноленым польск. войскам, са студз. 1807 ваенны міністр Варшаўскага княства. У час паходу Напалеона ў Расію 1812 камандаваў 5-м корпусам «Вял. арміі». Пасля вываду польск. войск у Саксонію сфарміраваў 8-ы корпус. Вызначыўся ў Лейпцыгскай бітве 1813. За мужнасць Напалеон 16.10.1813 узвёў П. ў маршалы і даручыў прыкрываць адыход


Ю.А.**Панятоўскі**.

французскіх войск. У час пераправы цераз р. Эльстэр цяжка паранены і патануў. У 1814 прах П. перанесены ў Варшаву, у 1819 перапахаваны ў Кракаве на Вавелі. У 1826—32 зроблены помнік П. (скульпт. Б.Торвальдсен), з 1840 ён знаходзіўся ў Гомелі перад палацам, з 1922 — у Варшаве.

*Літ.*: Skałkowski A.M. Książę Józef. Bytom, 1913; Prądzyński I. Książę Józef Poniatowski. Warszawa, 1920; Askenazy S. Książę Józef Poniatowski, 1763—1813. 7 wyd. Warszawa, 1978; Skowronek J. Ks. Józef Poniatowski. 2 wyd. Wrocław, 1986.

***Андрэй Лукашэвіч.***

**Панятоўскія**, шляхецкі род герба «Цёлак» («Цяля»). З гэтага роду кароль *Станіслаў Аўгуст* Панятоўскі [1764—95], які замоўчваў сваё паходжанне ў час панавання. Легенда ў генеалагічных даведніках апошняй трэці 18 ст. пра нібыта італьянскае паходжанне П. ад роду Тарэлі не стасуецца з генеалагічнымі даследаваннямі. У 18 ст. і пазней выказвалася меркаванне, што П. з дробнай бел. шляхты. У пач. 18 ст. Нікадэм Тадэвуш П. быў чашнікам мсціслаўскім. Потым гэта галіна роду перасялілася на Украіну, але П. засталіся і на Беларусі. У 20 ст. ў Мінскай і Магілёўскай губ. былі 2 сям'і П. Прозвішча П. паходзіць ад маёнтка і мяст. Панятова недалёка ад Любліна. Паводле дакументаў, першым з гэтага роду быў Марцін Цёлак Мацяёўскі з Панятовы (2-я пал. 15 ст.). У 17 ст. П. былі сярэдняй шляхецкай сям'ёй, служылі ў багатай шляхты на гасп. пасадах, часам арандавалі маёнткі. У 18 ст. ўзвысіліся. Найб. вядомыя:

Францішак (1640 або 1650—97), сын Яна. Лоўчы падляшскі з 1680, чашнік вышаградскі з 1690. Служыў у кн. Любамірскіх, з 1670 падстараста іх жэшаўскіх маёнткаў, з чаго пачалося ўзвышэнне роду. Меў сыноў Юзафа (1675—1739), генерал-маёра польскага войска, Станіслава і Міхала (1683—1716), манаха-дамініканца.

Станіслаў (15.9.1676—29.8.1762), сын Францішка. Атрымаў адукацыю ў Вене. Запісаўся ў аўстрыйскае войска, ваяваў пад камандаваннем прынца Яўгена Савойскага. Вярнуўся на радзіму, у Беларусі ў канфлікце паміж Сапегамі і шляхтай выступіў на баку Сапегаў, разам з імі перайшоў у час *Паўночнай вайны 1700—21* на бок шведскага караля Карла XII. Удзельнічаў у бітвах супраць войск Аўгуста II і рас. войск. Стаў прыбліжаным да новаабранага караля Станіслава Ляшчынскага, генералам артылерыі ВКЛ (1707—09), генералам кавалерыі шведскага войска. Удзельнічаў у бітвах пад Галоўчынам (1708) і Палтавай (1709), дзе ўратаваў жыццё Карлу XII. У 1718 вярнуўся ў Польшчу, яму вярнулі маёнткі. Стаў генерал-лейтэнантам польскага войска. У 1720 ажаніўся ў другім шлюбе з князёўнай Канстанцыяй Чартарыйскай, якая ў 1721 набыла маёнтак Воўчын у Берасцейскім пав., дзе былі збудаваны касцёл і палац — рэзідэнцыя П. Стаў магнатам, карыстаўся графскім тытулам, быў падстолім ВКЛ у 1722, падскарбім вялікім ВКЛ у 1722—31, ваяводам мазавецкім у 1731—82, кашталянам кракаўскім з 1752. Яго сыны на сойме 1764 атрымалі княжацкі тытул. З іх Казімір (1721—1800) — падкаморы вялікі каронны ў 1742—73, генерал польскага войска; Францішак (1723—49) — канонік і пробашч кафедральнага касцёла ў Кракаве; Станіслаў Аўгуст (1732—98) — кароль польскі і вял. князь літоўскі; Андрэй (1734—73) — генерал-лейтэнант аўстрыйскага войска (1760), фельдмаршал (1771), князь Свяшчэннай Рымскай імперыі; Міхал Ежы (1736—94) — біскуп плоцкі (1773), арцыбіскуп гнезненскі (1784), у час паўстання 1794 абвінавачаны ў здрадзе на карысць Прусіі і скончыў самагубствам.

Станіслаў (23.2.1754—13.2.1833), сын Казіміра. Генерал-лейтэнант польск. войска, шэф пешай кароннай гвардыі, падскарбі вялікі ВКЛ у 1784—91. У 1791 выехаў у Аўстрыю, потым у Італію. Ад сувязі з італьянкай Касандрай Лючы ўзаконены сыны, якія атрымалі ў Фларэнцыі (Таскана) тытул князёў дзі Монтэ Ратонда (1847), а ў Аўстрыі тытул князёў П. (1850). Нашчадкі аселі ў Францыі і ўвайшлі ў склад французскай арыстакратыі.

Юзаф Антоні (1763—1813), сын Андрэя, маршал Францыі; гл. *Панятоўскі Ю.А.*

*Літ.*: Herbarz polski (ułożony na podstawie herbarza Niesieckiego i manuskryptów). T. 2. Lwów, 1859; Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959; Грыцкевіч А. Апошні кароль // Культура. 1994. № 29.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**паперня**, даўняе прадпрыемства па вырабе паперы. Дакументы, напісаныя на паперы, з'явіліся ў гаспадарскай канцылярыі ВКЛ з сярэдзіны 14 ст. на прывазной паперы. У 1524 Жыгімонт I падпісаў указ аб дазволе швейцарцу Сан Вернарту пабудаваць у Вільні П. каля замка, у раёне Каралеўскіх млыноў. У той год правы на будаўніцтва 2-й П. на Зарэччы дадзена Карулісу Вернарту (відаць, сваяку Сан Вернарта). На думку польскіх гісторыкаў Я.Птасьніка, Г.Лаўмянскага і інш., арганізацыя гэтых П. звязана з выдавецкай дзейнасцю Скарыны. На тэр. Беларусі першая П. пабудавана ў 1560-я г. ў Нясвіжы. Яе прадукцыя прызначалася для задавальнення патрэб *Нясвіжскай друкарні*, заснаванай у 1562. У прадмове да «Біблії» 1572, выдадзенай у Нясвіжы, С.Будны пісаў, што «заложил друкарню и збудовал паперню» нясвіжскі стараста М.*Кавячынскі*. Пасля закрыцця Нясвіжскай друкарні К.М.Радзівілам Сіроткай Кавячынскі заснаваў 2-ю на Беларусі П. ў сваім маёнтку Узда. Некалькі П. у канцы 16—пач. 17 ст. ў Вільні і яе наваколлі належалі бел. кнігавыдаўцам і купцам *Мамонічам*, якія выконвалі важныя заказы па выданні Статутаў ВКЛ і інш. л-ры. Частку паперы Мамонічы прадавалі ў ВКЛ і Расіі. Першая П., якая выраблялa паперу для брацкіх выданняў, заснавана каля 1633 у Еўі. У 2-й



пал. 16—18 ст. на землях Беларусі пабудавана каля 30 П. і папяровых фабрык (амаль усе яны былі прыватныя): у Бакштах (Шчучынскі р-н), Быцені (Івацэвіцкі р-н), Відзах (Браслаўскі р-н), Гальшанах (Ашмянскі р-н), Дуброўне, Дзятлаве, Заслаўі (Мінскі р-н), Калачы (Лагойскі р-н), Лыскаве (Пружанскі р-н), Любані, Любчы (Навагрудскі р-н), Слуцку, Смаргоні, Уздзе і інш. Звычайна П. будавалі на паўнаводных чыстых рэках. Сыравінай служыла апрацаванае льняное і баваўнянае рыззё. Папера кожнай П. мела свае *вадзяныя знакі*, якія разам з некаторымі інш. яе асаблівасцямі дазваляюць адносна дакладна датаваць час вырабу і выкарыстання.

***Георгій Галенчанка.***

**паправы статутовыя 1578**, змены і дапаўненні *Статута Вялікага княства Літоўскага 1566*, улічаныя пры складанні Статута 1588. Работа над «поправой» Статута 1566 фактычна пачалася адразу пасля яго прыняцця. На неабходнасць унясення ў Статут змен і дапаўненняў указвалася ў канстытуцыях шэрагу соймаў (Гарадзенскага 1568, Люблінскага 1569, Варшаўскага 1584 і інш.), пастановах асобных з'ездаў (канвакацый) і мясцовых соймікаў. Найб. значныя П.с. зацверджаны на Варшаўскім сойме, сярод іх: аб парадку выклікання ў суды па справах «о именя, люди, кгрунты, о што-колвекъ», аб праве зацікаўленых бакоў звяртацца да *возных* без папярэдняга звароту ў адпаведны суд, аб няправільным абвяржэнні (збіванні) іскавых заяў (*позваў*), аб сесіях гродскіх і земскіх судоў (рочках замкавых і роках земскіх), аб папярэднім следстве (шкрутыніуме) па крымінальных справах і інш.

*Публ.*: Временник Императорского Московского общества истории и древностей российских. 1855. Кн. 23; Volumina Legum. T. 2. 2 wyd. Petersburg, 1859.

***Аляксандр Марыскін.***

**Папроцкі** (Paprocki) Барталамей (Барташ; каля 1543, Папроцкая Воля, Мазовія—27.12.1614), польскі гісторык, геральдык, паэт. З дробнай шляхты. Паводле некаторых звестак, вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. Пасля смерці караля Стафана Баторыя выступаў як прыхільнік Габсбургаў. Удзельнічаў у бітве пад Бычынай 1588. Пасля паражэння партыі Жыгімонта III уцёк у Маравію, дзе канчаткова сфарміраваліся яго паліт. погляды: польска-чэшская унія пад эгідай Габсбургаў, экспансія каталіцтва на Усход, аб'яднанне ўсіх сіл супраць Турцыі. У 1610 вярнуўся ў Польшчу. Атрымаў вядомасць як аўтар твораў па генеалогіі Рэчы Паспалітай. Напісаў вершаваны гербоўнік зах.-укр. зямель «Паноша, гэта значыць праслаўленне паноў і панят рускіх зямель за мужнасць, маральнасць і іншыя добрыя справы» (1575). У працы «Гняздо цноты» (1578) даў інфармацыю пра некаторыя роды і паходжанне гербаў. Найб. поўны яго генеалагічны твор — «Гербы польскага рыцарства» (1584). Для яго напісання П. выкарыстаў хронікі Кадлубка, Башкі, Я.Длугаша, Мацея з Мехава, М.Кромера і інш., дакументы, што захоўваліся ў замках, кляштарах, сямейныя хронікі, гродскія, земскія і інш. судовыя кнігі, акты Кароннай метрыкі, некралогі, надмагільныя надпісы. Генезіс асобных гербаў і родаў прадстаўляў некрытычна, верыў у стараж.-рымскае паходжанне вял. колькасці шляхты. 92 гербы выводзіў як замежныя і толькі 58 лічыў мясц. паходжання. Істотную інфармацыйную вартасць у яго творах маюць апісанні сучасных яму падзей. Праца пра гербы падзелена на 5 кніг. У 1-й кнізе апісана паходжанне дзярж. герба Польшчы, змешчаны радаводы польскіх князёў і каралёў ад Леха да Людвіка I, хроніка іх панавання. У 2-й кнізе апісаны найдаўнейшыя айчынныя гербы паводле іх старшынства, у 3-й — гербы іншаземнага паходжання. 4-я кніга прысвечана дзярж. гербу ВКЛ «Пагоні», панаванню Гедзімінавічаў і Ягелонаў. П. даў генеалагічную інфармацыю і пра найб. значныя баярскія роды ВКЛ, якія ў 1413 прынялі гербы ў час заключэння Гарадзельскай уніі, пра інш. сем'і, гал. чынам валынскія (усяго назваў каля 130 прозвішчаў шляхты ВКЛ). 5-я кніга прысвечана гербам ваяводстваў і найбольш значных гарадоў. Пасля выхаду працы многія шляхецкія сем'і былі незадаволены, таму П. перадрукаваў некаторыя старонкі і ўклеіў іх у асобныя экзэмпляры. У Чэхіі П. выдаў гіст.-генеалагічнае апісанне Маравіі, генеалогію чэшскіх паноў, паэтычныя творы.



Б.**Папроцкі**. Гняздо цноты: Кракаў. 1578. Старонка кнігі.

*Літ.*: Krejči K. Bartłomiej Paprocki z Głogoł i Paprockiej Woli // Krejči K. Wybrane studia slawistyczne. Warszawa, 1972.

***Альбіна Семянчук.***

**Папроцкі** Францішак (10.6.1723, Беларусь—пасля 2.7.1805), выдавец, перакладчык, гісторык. Д-р філасофіі (1758). Вучыўся ў Полацкім, Слуцкім, Нясвіжскім, Гарадзенскім і Варшаўскім езуіцкіх калегіумах. У 1753—56 выкладаў у Варшаве. З 1757 выкладчык Віленскай акадэміі. Прадоўжыў пачатае Я.А.*Пашакоўскім* выданне віленскіх «Палітычных каляндарыкаў», дзе друкаваў звесткі па гісторыі, астраноміі, геаграфіі і фізіцы. У 1760 узначаліў *Віленскую акадэмічную друкарню*, у якой у 1760—63 выдаваў і рэдагаваў штотыднёвік «*Кур'ер Літэвскі*» з дадаткамі, дзе змяшчаў шмат матэрыялаў з Беларусі. Выдаў падручнік геаграфіі «Еўропа, з частак свету першая апісаная» (1754), гіст. працы «Гісторыя прэтэндэнтаў Кароны Англійскай» (1758, 2 выд. 1778), «Звесткі пра Курляндскае і Земгальскае княства, сабраныя з розных гісторый» (1759), «Найбольш значныя войны да нараджэння і пасля нараджэння Хрыста да Парыжскага і Губертусбургскага міру 1763 года» (1763). Надрукаваў гіст. працы К.А.*Галоўкі* «Хатнія звесткі пра Вялікае княства Літоўскае» (1760) і «Хатнія звесткі пра Карону Польскую» (1763).

У 1763 П. ўзначаліў «Калегіум нобіліум» у Вільні, з 1765 рэктар Ковенскага калегіума, у 1768—73 пракуратар Літ. правінцыі езуітаў. Пасля роспуску ордэна (1773) прэлат інфлянцкі, канонік ловіцкі. Пераклаў на польск. мову працу Ф.Рэната «Пра рыцарскую справу» (1776), да якой дадаў 2-і том з апісаннем войнаў Рэчы Паспалітай; кнігу К.Канота «Памылкі Вальтэра» (1780, перавыдадзена ў Нясвіжы ў 1781). Прытрымліваўся поглядаў памяркоўнага крыла асветнікаў.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

***Адам Мальдзіс.***

**Папэ** (Papée, Pappè) Фрыдэрык (4.6.1856, г. Золачаў, Украіна—20.10.1940), польскі гісторык. З сям'і французскіх эмігрантаў. Акад. Польск. АН (1920), праф. звычайны (1920). Вучыўся ў Львоўскім і Венскім ун-тах. Працаваў у б-ках Львова. Адзін з заснавальнікаў Львоўскага гіст. таварыства, рэдактар час. «Kwartalnik historyczny», 1904—05). У 1905—26 дырэктар Ягелонскай б-кі ў Кракаве, у 1929—30 намеснік дырэктара Б-кі Чартарыйскіх, у 1927—33 інспектар Б-кі Польск. АН. Вывучаў гісторыю Польшчы і ВКЛ часоў Ягелонаў. У манаграфіі «Польшча і Літва на пераломе сярэдніх вякоў. Т. 1. Апошняе дванаццаціголддзе Казіміра Ягелончыка» (1903) разгледзеў дзярж. лад, унутраную і знешнюю палітыку абедзвюх дзяржаў. Вывучэнне гэтых тэм працягнуў у працах «Ян Ольбрахт» (1936), «Аляксандр Ягелончык» (1949). Аўтар біяграфій «Жыццё гетмана Жулкеўскага» (1895), «Ян Длугаш» (1897), «Святы Казімір, каралевіч польскі» (3 выд., 1933). Выдаў зборнік крыніц часоў панавання Аляксандра «*Акты Аляксандра, караля польскага, вялікага князя літоўскага*».

*Тв.*: Studia i szkice z czasów Kazimierza Jagiellończyka. Warszawa, 1907 (змешчана бібліяграфія прац П.); Jagiellonowie a Moskwa // Kwartalnik historyczny. 1922. Z. 1; O przywileju mielnickim dla senatu z r. 1501 // Księga pamiątkowa ku czci Oswalda Balzera. Lwów, 1925. T. 2.

*Літ.*: Dąbrowski J. Fryderyk Papée (1856—1940) // Kwartalnik Historyczny. 1939—45. R. 53.

***Валерый Пазднякоў.***

**Парацэльс** (Paracelsus) Філіп Аўрэол Тэафраст Бамбаст фон Гогенгайм (Philippus Aureolus Teophrastus Bombastus von Hohenheim; 21.10.1493, мяст. Эйнзінгельн, Швейцарыя—24.9.1541), урач, алхімік, філосаф, містык, адзін з



Ф.**Парацэльс**. Гравюра. 16 ст.

віднейшых прадстаўнікоў эпохі Адраджэння. Вучыўся на мед. ф-це Ферарскага ун-та (да 1515), быў праф. ун-та (1526—28), гар. урачом у Базелі. Шмат вандраваў па краінах Еўропы. У перыяд паміж 1520—25 наведаў Прусію, ВКЛ, Польшчу і інш. краіны, дзе збіраў звесткі па медыцыне, дыскуціраваў з мясц. ўрачамі. Па словах П., на диспутах у Гданьску і Вільні над ім атрымалі перамогу і прагналі спачатку з ВКЛ, пасля з Прусіі і Польшчы. У віленскім дыспуце з П., мабыць, прымаў удзел доктар медыцыны Ф.*Скарына*, які ў той час жыў у Вільні. Для поглядаў П. характэрна адмаўленне схаластычных традыцый у медыцыне і аўтарытэту Галена, апора на практыку. Аўтар шматлікіх прац па медыцыне, алхіміі, прыродазнаўстве, філасофіі і інш.

*Літ.*: Проскуряков В. Парацельс. М., 1935; Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа. Мн., 1987; Гартман Ф. Жизнь Парацельса и сущность его учения. 4 изд. М., 2002.

**паркі** (ад позналац. parricus абгароджанае месца), зямельныя ўчасткі з натуральнай або спецыяльна пасаджанай раслиннасцю, з дарогамі, алеямі, вадаёмамі, прызначаныя для адпачынку, прагулак, гульняў. У ВКЛ П. фарміраваліся ў рэчышчы развіцця агульнаеўрапейскай культуры, з улікам гіст., эканам., прыродных умоў і мясц. традыцый. Развіццю П. спрыяла садаводства наогул, стан якога ў сваю чаргу быў звязаны з культурай земляробства. Пачатак развіцця садаводства на землях будучага ВКЛ датуецца 12 ст. З сярэдзіны 16 ст. сады адзначаюцца пры манастырах, сядзібах, замках. Палажэнне аб пладаводстве было замацавана Статутам ВКЛ 1588. Сады ўключалі сажалкі, дэкаратыўныя дрэвы, асабліва ліпу, кусты, кветкавыя расліны, малыя архітэктурныя формы — альтанкі (Наваельня, 1641). Характэрным элементам некаторых рэнесансавых сядзіб былі аптэкарскія агароды (Койданава, Дзяляцічы). Яны месціліся за домам (Русота, Астрашыцкі Гарадок), перад ім (Дзяляцічы) або ўключаліся ў склад саду (Карэлічы, Іўе). Для садоў была характэрна сувязь з прылеглай мясцовасцю, прыродным наваколлем, якое асвойвалася і паступова парушала іх рэгулярнасць. Так, часткай кампазіцыі з 2 сажалкамі і садам у сядзібе Дзераўная быў альховы гай; у Ішкалдзі (1632) у склад сядзібы былі ўключаны гай бярозавы, гай з ялін і змешаны гай («рознага дрэва»). Пры сядзібе ў Гайцюнішках былі сады, сажалкі, гаі, лясы.

У найб. багатых сядзібах П. фарміраваліся пад уплывам італьянскага Рэнесансу, таму яны называліся італьянскімі садамі. У канцы 16 ст. ў сувязі з асваеннем загараднай рэзідэнцыі пад Нясвіжам закладзены сад у *Альбе*. Паводле замкавых вопісаў, у канцы 16 ст. меўся італьянскі сад з паўн. боку за валам Мірскага замка. Відаць, яны фарміраваліся адначасова пасля вяртання М.К.*Радзівіла* Сіроткі з вандроўкі па Італіі і Усх. Міжземнамор'і пад асаблівым уражаннем ад садоў Венецыі. У 1630—40 італьянскі сад быў закладзены Радзівіламі на тэр. Новага замка ў Слуцку. Сад складанай рэнесансавай сядзібы ў Іўі, якая будавалася Кішкамі, называўся, паводле інвентару 1653, лабірынтам. Наяўнасць лабірынтаў была характэрнай рысай еўрапейскіх рэнесансавых садоў.

Першым тэарэтыкам садоў на Беларусі быў *Сімяон Полацкі*. Сады сталі



сімвалам школы ў яго вершах. У гэты час сады прыпадабняліся да кніг, а зборы кніг называліся фігуральна «садамі», «вертаградамі». На вокладцы «Вертаграда многацветнага» Сімяона Полацкага, своеасаблівай вершаванай энцыклапедыі, зроблена выява саду і яго атрыбут — агароджа.

У рэнесансавых сядзібах нараджаўся барочны тып шляхецкага двара, які развіваўся на грунце агульнай еўрапейскай культуры 17 ст. Асн. яго рысай была цэльнасць кампазіцыі. Палац або сядзібны дом выступалі ў якасці кампазіцыйнага цэнтра ансамбля, з'яўляліся яго аптычным фокусам. Уся кампазіцыя трымалася на гал. падоўжнай восі, якая дапаўнялася другараднымі восямі. Для кампазіцыі былі характэрны строгі парадак, сіметрыя, ураўнаважанасць і паслядоўнасць. Сядзібы ўключалі ўязную алею з брамай па гал. восі, парадны двор-курданёр, які ўтваралі палац або сядзібны дом з сіметрычна размешчанымі флігелямі, і рэгулярны П.

Стыль барока характарызуецца актыўнымі адносінамі да прыроды, пераўтварэннем прыроднага ландшафту (планіроўка тэрыторыі, тэрасаванне, пракладка каналаў, стварэнне вадаёмаў строга геаметрычнай формы, будаўніцтва каскадаў, фантанаў, вадаспадаў). Вял. ўвага аддавалася тапіярнай апрацоўцы (фармоўцы) дрэў, кустоў, шпалерам, роўным зялёным сцэнам баскетаў (Курклі, Анікшты, Чарнаўчыцы, Дубай, Вял. Мажэйкава, Скокі, Анапаль, Альшэва). Парк барочнай сядзібы станавіўся не проста «працягам палаца», але і аналагам палацавых залаў, кабінетаў, калідораў. Аранжарэйныя расліны ў кадушках падкрэслівалі інтэр'ерны характар садовых прастораў.

Рэгулярнасць барочнага саду разумелася як адлюстраванне натуральнай (прыроднай) рэгулярнасці, падпарадкаванасць яе законам ньютанаўскай механікі і прынцыпам дэкартаўскай разумовасці. Вядучымі матывамі стылю сталі парадак, выразнасць, стройнасць і сіметрыя. Змяніўся ідэалагічны змест паркаў. На другі план адышоў рэнесансавы «прынцып меры», з'явіўся іранічны элемент, жартаўлівасць. Дрэвы, кусты не проста падстрыгаліся, а фармаваліся ў выглядзе розных кур'ёзаў-звяроў, геаметрычных форм. У П. прыйшлі тэатры, а з імі забавы, элементы відовішча. П. страцілі вучэбны і навук. характар. Ансамблі барока сімвалізавалі трыумф свецкай культуры, магутнасць яе носьбітаў, былі цэнтрамі грамадска-паліт. і культурнага жыцця (Веркі, Вака, Сясікі, Воўчын, Слонім, Дабраўляны, Сёмкаў, Альба, Іўе, Дзятлава, Лявонпаль, Свіслач, Станіслававa). Высокія ідэі стылю рэалізоўваліся вядомымі замежнымі (А.Лоцы, М.Педэці, М.Пёпельман, Дж.Сака, А.Гену) і мясцовымі (Т.Жаброўскі, К.Ждановіч, Л.Лютніцкі і інш.) дойлідамі. Адраджэнне ружанскай рэзідэнцыі пачалося ў 2-й пал. 18 ст. пры канцлеры ВКЛ А.Сапегу. Яна была перабудавана і пашырана па праекце Я.С.*Бекера* з асаблівым размахам. У аснову кампазіцыі П. пакладзены прынцып радыяльна-прамянёвага размеркавання алей. Уздоўж цэнтр. восі выцягнулася гал. алея. Яна пачыналася ля падэшвы ўзгорка, схіл якога быў апрацаваны ў выглядзе каскаднага лесвічнага спуску. 6 алеяў, якія разыходзіліся радыяльна, пачыналіся ад невял. ансамбля ў цэнтры П., што ўключаў палацык і 4 невял. павільёны. Кожная з алей у сваю чаргу замыкалася ансамблем з 3 таксама невял. павільёнаў. У алеях, якія разыходзіліся быццам сонечныя промні, знайшоў адлюстраванне характэрны матыў садовага мастацтва Андрэ Ленотра. Версальскім матывам трэба лічыць у ружанскім ансамблі і парадны двор, спланаваны на манер велізарнага салона (пл. каля 1,5 га). Контуры яго былі адзначаны палацам з галерэямі, бакавымі аб'ёмамі і велічнай узорнай брамай з флігелямі. У апошняй чвэрці 18 ст. рэгулярнае паркабудаванне паступова саступае пейзажным П. эпохі класіцызму.

*Літ.*: Ф е д о р у к А.Т. Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989; Я г о ж. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000; Я г о ж. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004.

***Анатоль Федарук.***

**Парнаўскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў Рэчы Паспалітай у *Інфлянтах.* Створана паводле «Інфлянцкай канстытуцыі» 1582 як Парнаўскі прэзідыят. Цэнтр — г. Парнава (цяпер Пярну, Эстонія). Займала паўн.-зах. частку Інфлянтаў (тэр. сучаснай паўд.-зах. Эстоніі і паўн. Латвіі). У склад прэзідыята ўваходзілі 20 акруг (паветаў): Абнормская, Алендорфская, Буртніцкая, Вольмарская, Гельмецкая, Каркуская, Крэмонская, Леальская, Лемзельская, Папендорфская, Парнаўская, Пернігельская, Ропская, Руенская, Саліская, Таўруская, Трэйдзенская, Эрмеская. У 1589 прэзідыят перайменаваны ў ваяводства. У пач. 17 ст. занята шведскімі войскамі. Фармальна існавала да *Аліўскага міру 1660*.

Ваяводы парнаўскія: М.Дэмбінскі (1599—1603, у 1590—99 прэзідэнт парнаўскі), Т.Дэнгаф (1617—20), І.Тарноўскі (1620—27), П.Трызна (1628—33), К.Палубінскі (1633—40), Э.М.Дэнгаф (1640—42), Я.Завадзкі (1642—45), Е.Літавор-Храптовіч (1645—46), Г.Дэнгаф (1646—59), С.К.Канецпольскі (1660—61).

Кашталяны парнаўскія: П.Стаброўскі (1600—19), Г.Дунін-Раецкі (1631—34), Э.М.Дэнгаф (1634—40), М.Асалінскі (1640—49), Т.Касакоўскі (1648—50), П.Макавецкі (1652—55), У.Ляшчынскі (1655—56).

***Валерый Пазднякоў.***

**парох**, гл. *Пробашч.*

**партачы** (ад лац. a parte fraternitatis па-за цэхам), на Беларусі ў 16—18 ст. рамеснікі, якія жылі ў горадзе або паблізу яго і не ўваходзілі ў рамесныя *цэхі*. П. выраблялі прадукцыю нелегальна. У некаторых гарадах складалі сур'ёзную канкурэнцыю цэхавым рамеснікам, якія праследавалі П. у судовым парадку. Ператварэнне цэхаў у замкнёныя карпарацыі і ўскладненне доступу ў іх выклікала павелічэнне колькасці П. Вырабы П. часам былі не горшыя за вырабы цэхавых рамеснікаў і больш танныя, але ў большасці саступалі ім у якасці, таму пазней П. называлі рамеснікаў нізкай прафесійнай кваліфікацыі.

**партрэт данатарскі**, выява данатара (лац. donator дарыльшчык, ахвяравальнік) — заказчыка твора выяўленчага мастацтва або заснавальніка храма. Сустракаецца ў розных відах мастацтва, часцей у жывапісе. Заснавальніка храма часта малявалі з мадэллю будынка ў руках на абразе (перад Ісусам Хрыстом, Маці Божай, святым заступнікам) або асобна, але ў кантэксце

агульнай сістэмы размалёвак і дэкарацый храма або кнігі ў спалучэнні з інш. выявамі. Адметныя рысы П.д.: адлюстраванне данатара звычайна ўкленчаным у малітоўнай позе са складзенымі рукамі, арыентаванасць кампазіцыйнага цэнтра на святога-заступніка, самапаглыбленасць і сузіральнасць спартрэтаванага, адсутнасць знешняй калізіі і падкрэсленых сувязей са знешнім светам. Д.п. з'явіўся ў мастацтве ранняга сярэдневякоўя, росквіту дасягнуў у 14—15 ст. На Беларусі першыя Д.п. вядомы з 11 ст.: выявы тураўскага кн. Яраполка Ізяславіча, яго маці Гертруды і жонкі Ірыны ў «Кодэксе Гертруды» (паміж 1078 і 1087). Часцей сустракаецца на абразах 16—18 ст.: «Пакланенне вешчуноў» (каля 1514, Музей стараж.-бел. культуры ІМЭФ НАН Беларусі), дзе ў выніку панаўленняў 2-й пал. 17 ст. змешчана выява данатара Яна Сегеня; «Маці Божая са святымі Ігнаціем Лаёлам і Францыскам Ксаверыем» (1-я пал. 17 ст., таксама), дзе святым нададзены партрэтныя рысы кн. Мікалая Крыштофа і Юрыя Радзівілаў, якія апекавалі езуіцкія місіі ў Ліпску і Крывошыне, адкуль паходзіць карціна. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 616.

*Літ.*: Хадыка А. Да атрыбуцыі «Маці Боскай» з Крывошына // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мн., 1989; Александровіч У. Шляхі развіцця партрэта ў сярэдневяковым жывапісе Украіны і Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994.

***Аляксей Хадыка.***



Да арт. **Партрэт данатарскі**. Абраз «Пакланенне вешчуноў» з партрэтам данатара Яна Сегеня. 17 ст. Фрагмент.

**партрэт пахавальны**, жывапісная або скульптурная выява нябожчыка. Вядомы ў многіх народаў свету са старажытнасці. Функцыяй П.п. была дакладная перадача фізічнага аблічча памерлага для забеспячэння вечнага жыцця яго душы (паводле шэрагу рэліг. дактрын) або ўшанавання яго памяці. У Беларусі П.п. пашыраны ў 15—18 ст., найб. раннія формы сустракаюцца ў тканых пахавальных пакрывалах і харугвах. П.п. магла быць прыжыццёвая выява памерлага, яе копія або адлюстраванне, выкананае з пасмяротнай маскі, часам з геральдычнымі знакамі і надпісамі. Вылучаюць трунны партрэт, эпітафійны партрэт і жалобную харугву (канклюзію). Трунныя партрэты часцей малявалі алейнымі фарбамі на меднай, сярэбранай або цынкавай бляхе 6-, 8-граннай або акруглай формы. Прызначаліся яны да размяшчэння на тарцовай частцы труны ў час пахавальнай урачыстасці, пазней звычайна змяшчаліся на сцяне крыпты або храма, уваходзілі ў склад сінтэтычнага мастацкага вырашэння часткі яго інтэр'ера (эпітафія Б.Біспінку ў Троіцкім касцёле ў Ружанах работы І.Брукнера, 1789; надмагілле М.Радзівіла ў касцёле ў Дзятлаве, 18 ст.). Эпітафійныя П.п. не мацаваліся на труну і таму часцей мелі авальную форму, адразу ўваходзілі ў склад прысценнага скульптурнага надмагілля ў храме разам са сульптурнымі алегарычнымі постацямі і надмагільным надпісам у скульптурнай рамцы (партрэт А.Пацея, 18 ст., зберагаецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі). Для адной цырымоніі маглі быць выкарыстаны і трунны і эпітафійны П.п., а таксама канклюзія — жалобная харугва з маляваным або шытым партрэтам, упрыгожаная металічнымі ніткамі, галунамі, карункамі, звычайна з надпісам біяграфічнага або панегірычнага характару і выявай герба.

*Літ.*: Wiliński S. U źródeł portretu staropolskiego. Warszawa, 1958; Тананаева Л. Сарматский портрет: Из истории польского портрета эпохи барокко. М., 1979; Хадыка А., Хадыка Ю. Непаўторныя рысы: Нарысы з гісторыі бел. партрэта. Мн., 1992.

***Аляксей Хадыка.***

**партрэт сармацкі**, характэрная для мастацтва Рэчы Паспалітай форма параднага шляхецкага партрэта, пераважна часоў барока (16—18 ст.), звязаная з комплексам светапогляду і культуры *сарматызму*. Прадстаўлены шырокім спектрам твораў — ад падобных да рэпрэзентатыўных зах.-еўрапейскіх партрэтаў позняга Адраджэння і барока да выяў, набліжаных да народна-прымітыўнага мастацтва. Адлюстроўваў пераважна вобраз homo militans (чалавека-воіна) і такім чынам паказваў ролю ваенна-феад. саслоўя ў дзяржаве, перадаваў паэтыку яго гераізаванага света- і самаўспрыняцця (напр., партрэт Юрыя Радзівіла, 1480—1541). У адпаведнасці з міфам аб паходжанні польскай шляхты ад сарматаў (у выпадку бел.-літ. магнатэрыі заменены на паданне аб паходжанні ад патрыцыяў Стараж. Рыма, гл. ў арт. *Палемон*) П.с. ўбіраў у сябе рысы арыенталізму і дэкаратыўнасці. У мастацтве Беларусі і Украіны асабліва шмат пераймаў ад фармальна-эстэтычных асноў іканапісу. П.с. ўласцівы лінеарнасць малюнка, вял. плоскасці яркіх колеравых паверхняў, акцэнтаванне дэкаратыўных элементаў і фактуры каштоўных тканін у спалучэнні з падкрэсленым рэалізмам вобразаў (партрэт кн. Міхаіла Барысавіча, мяжа 16—17 ст.). Класічны П.с. кампазіцыйна ўключае 3 асн. элементы: выяву (адлюстраванне мадэлі), дэвіз (увасабле-



Да арт. **Партрэт сармацкі**. Партрэт Януша Вішнявецкага. 17 ст.

ны ў гербе партрэтаванага) і інскрыпцыю (разгорнуты або скарочаны да манаграмы надпіс), плоскаснасць 2 апошніх элементаў супярэчліва спалучаецца з маляўнічасцю першага (партрэт Ефрасінні Тышкевіч, каля 1659—61). П.с. ўваходзілі ў склад палацавых галерэй (асабліва значных у родавых маёнтках Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Пацаў), кляштарных і царк. збораў. У пахавальных комплексах сустракаецца разнавіднасць П.с. — *партрэт пахавальны*. Агульная асаблівасць П.с. — павышаная ўвага да пратакольнай дакладнасці партрэтнай характарыстыкі. П.с. адлюстроўваў разуменне заказчыкам-феадалам ролі і месца сябе і свайго роду ў гісторыі, грамадстве, дзяржаве і нават у сучасным сусвеце, звычайна ў паэтычна прыўзнятай афарбоўцы. Моцны ў П.с. інфармацыйны пачатак выяўляўся праз набор атрыбутаў (улады, духоўнага або сац. стану мадэлі). Стваральнікамі П.с. былі пераважна ананімныя цэхавыя мастакі (партрэты прадстаўнікоў сям'і Весялоўскіх з Гарадзенскага кляштара брыгітак (1630—40-я г.), але захаваліся і імёны некаторых жывапісцаў: І.*Шрэтар*, Д.Шульц (1615—83; аўтар партрэтаў Радзівілаў, у т.л. Я.Радзівіла, 1652, і Пацаў, выкананых у Варшаве). П.с. перажыў фармальную і стылістычную эвалюцыю — ад пераважна манументальных выяў у поўны рост у канцы 16—1-й пал. 17 ст. праз больш псіхалагічныя паясныя вобразы сярэдзіны 17 ст. і класіцыстычную стылізацыю часоў Яна III Сабескага да уніфікаваных па форме, пераважна пагрудных і паясных партрэтаў у сямейных галерэях 18 ст. Эвалюцыя не была прасталінейнай і адзначалася паўторамі папулярных схем і вырабам шматлікіх рэплік больш стараж. вобразаў для новых збораў [партрэт Канстанціна Астрожскага (1460—1530) сярэдзіны 18 ст.]. На мяжы 18—19 ст. П.с. ўвасабляў выключна кансерватыўна-архаічную мастацкую плынь, інспіраваную ўздымам нац.-вызв. ідэалогіі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (партрэт Андрэя Укольскага, 1770-я г.). Найб. багатыя калекцыі П.с. у Беларусі зберагаюцца ў Нац. мастацкім музеі Беларусі і ў Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ НАН Беларусі.

*Літ.*: Т а н а е в а Л.И. Сарматский портрет: Из истории польского портрета эпохи барокко. М., 1979; Seminaria Niedzieckie II. Portret typu sarmackiego w wieku XVII w Polsce, Czechach, na Słowacji i na Węgrach. Kraków, 1985; Х а д ы к а А., Х а д ы к а Ю. Непаўторныя рысы: З гісторыі бел. партрэта. Мн., 1992; Gdzie Wschód spotyka Zachód: Portret osobistości dawnej Rzeczypospolitej 1576—1763. Katalog wystawy pod kierunkiem J.Malinowskiego. Warszawa, 1993.

*Аляксей Хадыка.*

**партугал**, 1) залатая манета з геральдычнымі выявамі, якая білася ў Партугаліі ў 1499—1557 (з перапынкамі) вартасцю 10 крузада масай 39,9 г вельмі высокай пробы. Стала метралагічным узорам для вял. залатых манет і медалёў еўрапейскіх краін 2-й пал. 16—17 ст. масай у 10 дукатаў або больш. 2) Назва ў Рэчы Паспалітай у 16—18 ст. айчынных і замежных партрэтных манет пробы *дуката*, лігатурная маса якіх перавышала масу дуката. Часта выпускаліся як манеты-данатывы або мемарыяльныя манеты і ацэньваліся, як і інш. залатыя рэчы, вагой дукатаў. У інвентарах 17 ст. сустракаюцца назвы «двайны П.» і «адзінкавы П.», што дазваляе бачыць у П. гэтага часу таксама манету вагі дуката. У 18 ст. зборная назва П. для вял. залатых манет была выцеснена назвамі, утворанымі на ўзор луідора (*аўгустдор*, *станіслаўдор*, фрыдрыхсдор). Іл. гл. ў т. 1, с. 105.

*Іван Сінчук.*

**партызана**, п р а т а з а н, колючасякучая дрэўкавая зброя. Мела выгляд насаджанага на дрэўка доўгага і шырокага двухлязовага наканечніка, які ўнізе, каля ўтулкі, забяспечваўся парай бакавых выступаў у форме паўмесяца, скіраванага рожкамі ўверх. Першапачаткова наканечнікі П. маглі выраблядца са старых мячовых клінкоў. П. з мечападобнымі наканечнікамі паказаны на карціне «Аршанская бітва 1514». У пісьмовых крыніцах ВКЛ П. ўпамінаюцца ў інвентары берасцейскага цэйхгаўза 1566 і інш.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 142.

*Юрась Бохан.*



**Партызаны** гвардыі каралёў Аўгуста II (1719) і Аўгуста III (1740—45).

**Парэцкі** Тамаш (каля 1609, Лідскі пав.—9.7.1653), паэт, педагог. У 1626 уступіў у ордэн езуітаў, з 1639 ксёндз. У Віленскай акадэміі выкладаў рыторыку (1640—41), філасофію (1643—46), палемічную тэалогію (1646—49), схаластычную тэалогію ў калегіуме ў Браневе (1649—50), з 1650 рэктар калегіума ў Пултуску. Пісаў вершы на лац. мове, панегірыкі. Захаваліся рукапісныя лекцыі П. па філасофіі. Рукапіс «Пагадавой гісторыі касцёла з 1198 да 1460» не збярогся.

**Парэцкі** Якаў Ільіч [16(29).9.1913, г. Кёнігсберг—13.11.1992], беларускі літаратуразнавец, перакладчык, мовазнавец. Вучыўся ў Беластоцкай гімназіі, скончыў Лідскую гімназію (1932). Да 1939 вучыўся ў Віленскім ун-це. Да чэрв. 1941 працаваў настаўнікам, потым у эвакуацыі ў Башкірскай АССР. У 1944—48 працаваў выкладчыкам Мінскага педагагічнага ін-та, скончыў яго экстэрнам у 1948. Да 1979 выкладаў лацінскую мову ў Мінскім педагагічным ін-це замежных моў. Вывучаў культуру Беларусі 16—18 ст., творчасць паэтаў-лацiністаў. Пераклаў з лацінскай і польскай моў на рускую творы Гусоўскага (з Я.Семяжонам), С.Буднага, Я.Вісліцкага, С.Рысінскага, М.Карыцкага, С.Ягадзінскага, С.Кляновіча (з С.Яўсеевай) і інш. Выявіў у б-ках Пецярбурга, Львова, Вільні, Кракава шэраг невядомых або забытых твораў пісьменнікаў Беларусі.

*Тв.*: Симон Будный — передовой белорусский мыслитель XVI века. Мн., 1961; Сымон Будны. Мн., 1975; Элементы латинско-

го словообразования и современные языки. Мн., 1977; Соломон Рысинский: Solomo Pantherus Leucorussus. Конец XVI—начало XVII века. Мн., 1983; Николай Гусовский. Мн., 1984; Міхаіл Карыцкі. Мн., 1991; Ян Вісліцкі. Мн., 1991.

**пасаг**, прыданае, маёмасць і грошы, што давалі бацькі або родныя маладой, калі яна выходзіла замуж. Як сінонімы П. Статут ВКЛ 1588 выкарыстоўвае тэрміны «выправа» і «ўнясенне», але кожны з іх меў сваё адценне. Паводле раздз. 5 (арт. 1) П. лічылася рухомая маёмасць (грошы, золата, серабро і інш. каштоўнасці), якая ацэньвалася ўдвая. Пад выправай разумелася рухомая маёмасць бытавога прызначэння: адзенне, хатнія рэчы і інш. Тэрмінам «унясенне» вызначалася агульная сума П. і выправы. П. і ўнясенне былі асновай пры вызначэнні матэрыяльнага забеспячэння жонкі маёмасцю мужа (гл. *Вена*), а таксама асабістага і маёмаснага становішча жанчыны. Жонка магла неабмежавана распараджацца ўнясеннем, завяшчаць яго любой асобе. Унясенне, як і ўся маёмасць жонкі, пераходзіла ў спадчыну сынам і дочкам у роўных долях. Калі спадчыннікаў па мацярынскай лініі не было, унясенне вярталася бацькам жонкі. За неправамерныя дзеянні жанчына (выйшла замуж без згоды бацькоў ці апекуноў, шлюб скасаваны па яе віне) магла страціць П. або ўнясенне.

***Галіна Дзербіна.***

**пасад**, прадмесце, слабада, гандлёва-рамесніцкая частка горада ў 10—18 ст., жыхары якой аб'ядноўваліся ў абшчыну з самакіраваннем. Назва ўзнікла прыкладна ў 13 ст. Умацаваная частка П. — вакольны горад. Звычайна размяшчаўся вакол дзядзінца або на нізкім беразе ракі (т.зв. падол). На П. жылі пераважна рамеснікі і купцы, існаваў торг. П. мелі ўсе гарады Беларусі, у буйных іх было некалькі. У Полацку ў 16 ст. было 6 П., кожны з іх меў сваю назву (Запалоцкі, Экіманскі, Крыўцоў і інш.). З 16 ст. вядомы П. Віцебска: Завіцебны (Вялікі), Багародзіцкі, Узгорскі, Падзвінскі, Пясянскі, Заручайскі і інш. П. называлі таксама сельскі населены пункт, аналагічны *слабадзе*.

**Пасак** (Pasek) Ян Хрызастом (каля 1636, Гаславіцы Лянчыцкага ваяв., Польшча—каля 1701), пісьменнік, аўтар мемуараў. Паходзіў з дробнай шляхты. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Раве. У 1655—67 служыў у войску, пад камандаваннем С.Чарнецкага ваяваў супраць шведаў у Даніі, удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* — на тэр. Беларусі, у Палонкаўскай бітве, бітвах на р. Бася і каля Друцка (1660). Быў прыставам пры маскоўскіх паслах, якія ў 1662 праязджалі праз Беларусь. У 1663—64 удзельнічаў у ваеннай выправе караля Яна II Казіміра, у барацьбе супраць *Любамірскага рокашу 1665—66*. У 1667 асеў гаспадарыць у маёнтках у Кракаўскім ваяв. Удзельнічаў у абранні каралёў Міхала Вішнявецкага (1669) і Аўгуста II (1697). У 1670—90-я г. працаваў над мемуарамі, якія ахопліваюць 1656—88. У іх гістарычна дакладна і вобразна апісаны ваенныя і паліт. падзеі, удзельнікам якіх быў П., дадзены звесткі пра інш. падзеі, у т. л. пра бітву з туркамі пад Венай 1683. Твор — каштоўнейшы помнік стараж.-польск. мемуарыстыкі, у якім яскрава адбілася шляхецкая ментальнасць Рэчы Паспалітай 17 ст. Мемуары ўпершыню надрукаваны Э.Рачынскім у 1836, шмат разоў перавыдаваліся. Іх высока ставілі і выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці А.Міцкевіч, Ю.Славацкі, Э.Красінскі, Г.Сянкевіч.



А.**Пасевіна**.

*Літ.*: Rytel J. Pamiętniki Paska na tle pamiętnikarstwa staropolskiego. Wrocław, 1962; Tazbir J. Paskowe zwierciadło epoki // Tazbir J. Spotkania z historią. Warszawa, 1979; Таранеўскі В. Па старонках «Мемуараў» Яна Хрызастома Паска // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зб. Мн., 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пасевіна** (Possevino) Антоніо (12.7.1533, г. Мантуя, Італія—26.2. 1611), дыпламат, тэолаг, педагог. З 1559 чл. ордэна езуітаў. У 1581 у якасці папскага легата накіраваны ў Маскву, каб паспрыяць спыненню працяглай *Інфлянцкай вайны 1558—82*. З яго актыўным удзелам паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай было заключана *Ям-Запольскае перамір'е 1582*. Пасля вайны П. стаў дарадцам караля Стафана Баторыя, спрыяў умацаванню ў краіне пазіцый езуітаў (у т. л. на землях ВКЛ), пашырэнню контррэфармацыі. Абмяркоўваў з каралём праект стварэння лігі еўрапейскіх дзяржаў, накіраванай супраць Турцыі. Адзін з ініцыятараў падрыхтоўкі *Берасцейскай уніі 1596*, спрабаваў пераканаць у яе неабходнасці гал. апекуна праваслаўя ў ВКЛ К.В.Астрожскага. У 1586 па даручэнні Стафана Баторыя ездзіў у Рым да папы Сікста V. Пасля абрання ў 1587 новага караля Жыгімонта III вярнуўся ў Італію і цалкам прысвяціў сябе педагагічнай



ANTONII POSSEVINI
Societatis IESV.
MOSCOVIA.
VILNÆ.
In Lituania apud Ioannem Velicensem. Anno Domini.
M. D. LXXXVI.
Superiorum Permissu.

А.**Пасевіна**. Масковія. Вільня, 1586. Тытульны ліст.

і літ. дзейнасці. Аўтар кнігі на лацінскай мове «Масковія» («Moscovia», Вільня, 1586), у якой выклаў гісторыю, звычаі і рэліг. сітуацыю ў Расіі, што робіць твор каштоўнай гіст. крыніцай.

*Тв.*: Рус. пер.: Исторические сочинения о России XVI в. М., 1983.

*Літ.*: Успенский Ф. Переговоры о мире между Москвой и Польшей // Зап. Новороссийского ун-та. Одесса, 1887. Т. 45.

*Вячаслаў Шалькевіч.*

**«Пасланні Гедзіміна»** («Послания Гедимина»), зборнік дакументаў па гісторыі ВКЛ 13—14 ст. Падрыхтаваны У.Ц.*Пашутам* і І.Шталь, выдадзены ў 1966 у Вільнюсе. У ім змешчаны: даравальная грамата караля Міндоўга біскупу Хрысціяну (1254); пасланні вял. кн. Гедзіміна рымскаму папу Іаану XXII (1322), гараджанам Любека, Штральзунда, Брэмена, Магдэбурга, Кёльна і інш. Нямецкіх гарадоў, манахам-дамініканцам і францысканцам; пасланне горада Рыгі Гедзіміну; мірны дагавор Гедзіміна з Лівонскім ордэнам, дацкім намеснікам Рэвельскай зямлі, Рыгай і біскупамі Рыгі, Эзеля, Дэрпта; пасланні вармійскага біскупа Эбергарда вернікам, папы Іаана XXII французскаму каралю Карлу IV, стража прускіх францысканцаў Мікалая вернікам (усе 1323), папы Іаана XXII Гедзіміну, Нямецкаму ордэну; справаздача папскіх паслоў аб прыёме ў Гедзіміна; пасланні Рыгі Любеку, Гедзіміна біскупам Дорпата, Эзеля, дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі і Рызе (усе 1324); заява пасла Гедзіміна Лесе (1326); гандлёвы *дагавор 1338* Гедзіміна з Лівонскім ордэнам. Дакументы зборніка асвятляюць выхад ВКЛ у 1320-х г. на арэну еўрапейскай палітыкі, спробу Гедзіміна прыняць хрышчэнне, запрасіць у Літву прапаведнікаў і нямецкіх майстроў, заключэнне ВКЛ першых міждзярж. дагавораў. Выданне змяшчае адаптаваныя тэксты дакументаў на лацінскай і нямецкай мовах (узяты з ранейшых выданняў) і іх пераклады на рус. і літ. мовы, забяспечана каментарыямі.

*Валерый Пазднякоў.*

**пасляслоўе**, заключная частка тэксту, у якой ужо скончаны разгляд галоўнага прадмета. У адрозненне ад заключэння ці эпілога П. не ўваходзіць у сюжэт ці фабулу твора. П. з'яўляецца літ. творам і аналагічнае *прадмове*, мае некаторыя яе ўласцівасці. Генезіс П. ў значнай ступені звязаны з друкаванай кнігай. У пісьменстве ВКЛ у якасці П. маглі выступаць вершы, малітвы, аднак у адрозненне ад прадмовы П. звычайна не мела вял. памераў, праблемнага характару, загалоўка і заставалася ў асноўным утылітарным тэкстам, дзе паведамляліся выхадныя звесткі ці абставіны стварэння або выдання кнігі.

*Ігар Клімаў.*



Зала **Пасольскай Ізбы** ў Каралеўскім замку на Вавелі ў Кракаве.

**пасол** с о й м а в ы, прадстаўнік шляхты ад павета на *сойме* ВКЛ, пазней Рэчы Паспалітай. Да сярэдзіны 16 ст. інтарэсы шляхецкага стану ў сойме звычайна прадстаўлялі *харужыя* (з Жамойці *цівуны*). Ад кожнага павета выбіраліся на 2 П., аднак не забаранялася і інш. шляхце ездзіць на сойм. Заканадаўча П. акрэслены ў Статуце ВКЛ 1566. Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай П. ўвайшлі ў ніжэйшую палату сойма — *Пасольскую Ізбу*. За працу П. атрымлівалі грашовую кампенсацыю (гл. *Пасольскія дыеты*). Канстытуцыя 1601 вызначыла, што П. не можа быць асоба, якая мае судовую справу ў сойме. Канстытуцыя 1616 забараняла выбіраць П. дэпутатаў трыбуналаў і наадварот. У 1678 зацверджаны ўзор прысягі, якую мусіў прынесці П. У 1690 заканадаўча афармлена, што на сойме вольна кожнаму П., а на сойміках кожнаму шляхціцу абмяркоўваць любыя пытанні.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Пасольская Ізба**, ніжэйшая палата *сойма* Рэчы Паспалітай (вышэйшая — *Сенат*). Утваралася з выбраных шляхтай *паслоў* (па 2 ад кожнага павета). Спачатку дзейнічала паводле заканадаўчай базы П.І. Кароны Польскай да ўтварэння Рэчы Паспалітай. У 1633 вызначана, што за 5 дзён да сканчэння сойма П.І. і Сенат пачынаюць сумесныя пасяджэнні. У 1673 забаронена праводзіць кансіліум (сумеснае пасяджэнне) без пасяджэнняў асобна. Канстытуцыя 1690 устанавіла правілы і вызначыла новы парадак працы: у 1-ы дзень паслы павінны былі выбраць пасольскага *маршалка* і дэпутатаў да караля; маршалак рабіў прывітанне манарху ад П.І., зачытваў прапазіцыі ад караля і запісы, пададзеныя з архіва мінулым соймам, называў вакантныя ўрады (пасады) і інш.; пасля пачыналіся пасяджэнні і прымаліся канстытуцыі, якія падпісваў маршалак і дэпутаты. Генеральная канфедэрацыя 1764 вырашыла, каб пасля выбараў маршалка П.І. і Сенат праводзілі сумеснае пасяджэнне; пасля прывітання караля заслухоўвалася справаздача вял. падскарбіяў, потым палаты засядалі асобна. Канстытуцыяй 1768 устаноўлены новы парадак працы П.І.: напачатку выбіраўся маршалак, які намінаваў (прызначаў) сакратара, дэпутатаў па выпрацоўцы



канстытуцый (па 2 ад Кароны і ВКЛ), дэпутатаў у склад соймавага суда (па 6) і для праверкі рахункаў Скарбовай і Вайсковай камісій (па 4); пасля ўзаемных пасольстваў на 2-і дзень П.І. і Сенат праводзілі сумеснае пасяджэнне, на якім рабілася прывітанне каралю, заслухоўваліся прапазіцыі сойму ад манарха і матэрыялы мінулага сойма, намінаваліся дэпутаты да Сената для выпрацоўкі канстытуцый і праверкі камісій, заслухоўваліся рэляцыі паслоў у замежных краінах і замежных паслоў. Дэпутаты правяралі рахункі камісій і давалі справаздачу, пасля чаго выбіраліся новыя камісары. Потым адбываліся выступленні сенатараў і паслоў. На пачатку 3-га тыдня палаты пачыналі асобныя пасяджэнні. П.І. найперш павінна была займацца працай па эканам. пытаннях, потым па статыстычных, далей па іншых.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**пасольскія дыеты**, грашовыя сумы, прызначаныя на ўтрыманне павятовых *паслоў* на час парламенцкай сесіі. Праблема матэрыяльнай кампенсацыі паслам за падарожжа і пражыванне ў час працы *сойма* ўздымалася шляхтай ВКЛ яшчэ да Люблінскай уніі 1569, аднак працэдура грашовага забеспячэння паслоў была юрыдычна ўрэгулявана толькі пасля прыняцця Статута ВКЛ 1588. Згодан з 7-м арт. 3-га раздзела Статута паслам вызначаліся «пенези стравные», памер якіх вагаўся ад 120 да 200 коп грошаў, а калі «з допущенья была божьего дорогость збожъя и иное живности», то сума магла ўзрасці «водлуг уваженья часу и далекости дороги». На працягу наступных гадоў кошты ўтрымання паслоў раслі, і шляхта вызначала суму П.д. у залежнасці ад рэальных патрэб. Належныя сродкі збіралася з шляхецкіх маёмасцей. Канстытуцыя 1598, пацверджаная ў 1611, забараніла збіраць П.д. (пасольшчыну) са сталовых маёнткаў караля, а таксама сенатараў, якія ўдзельнічалі ў працы сойма. Выкананне пасольскіх функцый было прывабным з матэрыяльнага пункту гледжання, як шанец на пэўнае ўзбагачэнне. Належныя паслам сумы выплачваліся ўжо пасля іх вяртання з сойма, таму праблема фінансавання залежала ад уласных магчымасцяў павятовага прадстаўніцтва.

*Літ.*: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989; Rachuba A. Diety poselskie w Wielkim Księstwie Litewskim XVI—XVII wieku na przykładzie sejmiku żmudzkiego // Z dziejów kultury prawnej. Warszawa, ; Я г о ж. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002.

***Віталь Галубовіч.***

**пасольскія інструкцыі**, пісьмовыя наказы павятовай шляхты ВКЛ сваім *паслам* на соймы Рэчы Паспалітай і да манархаў. На думку гісторыка І.І.*Лапы*, П.і. сталі складацца яшчэ перад Люблінскай уніяй 1569. Наказы паслам, як правіла, рыхтавалі на перадсоймавым *сойміку*. Здараліся выпадкі, калі паслы не атрымлівалі такога суправаджальнага дакумента. З 16 ст. практыка абавязвала капіраваць П.і. ў гродскія кнігі. Арыгінал П.і. завяраўся подпісамі і пячаткамі ўдзельнікаў сойміка. П.і. была праграмай дзеянняў для паслоў падчас соймавых нарад, за невыкананне якой паслы неслі адказнасць перад павятовымі абывацелямі. Традыцыйным для П.і. быў калектыўны зварот да караля, дзе выказвалася адданасць манарху і паведамляліся імёны павятовых прадстаўнікоў для працы на сойме. П.і. складаліся найчасцей з некалькіх дзесяткаў пунктаў. Найбольшы аб'ём маюць дакументы 18 ст. У П.і. шляхта найперш давала адказы на прапановы караля, якія дасылаліся напярэдадні соймаў. Акрамя адказаў і прапаноў па ўнутры- і знешнепаліт. праблемах, П.і., як правіла, утрымлівалі прыватныя просьбы.

*Літ.*: Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000; Галубовіч В.У. Пасольская інструкцыя ад шляхты Полацкага ваяводства на сойм 1640 г. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 2003; Я г о ж. Дзве інструкцыі паслам на сойм ад шляхты Рэчыцкага павета з часоў панавання Жыгімонта Вазы // Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Гомель, 2004. Ч. 2; Радаман А. Інструкцыя Наваградскага сойміка паслам на элекцыйны сойм 1587 г. // Бел. гіст. агляд. 2003. Сш. 1—2.

***Віталь Галубовіч.***

**пасошчына**, мясцовы падатак у ВКЛ у 15—пач. 16 ст. На Смаленшчыне ўведзена пасля яе далучэння да ВКЛ; збіралася з зямель, падараваных вял. князем мясц. землеўласнікам у дадатак да асн. службовага акладу. Не абкладаліся П. новае ворыва ў лесе, родавыя баярскія вотчыны, купленыя землі, пустыя селішчы, падараваныя вял. князем за службу. У Мсціслаўскім і Пінскім княствах П. збіралі мясц. князі на сваю карысць.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 710—712.

**паспалітае права**, агульнадзяржаўнае свецкае заканадаўства ВКЛ, устаноўленае Статутамі 1529, 1566 і 1588 у адрозненне ад царкоўнага, кананічнага, гар. права, прававых сістэм, устаноўленых у асобных частках дзяржавы *абласнымі прывілеямі* і прававых норм розных канфесіянальных груп (яўрэяў, татараў).

**паспалітае рушэнне**, шляхецкае апалчэнне ў ВКЛ. Ахоплівала ўсіх землеўладальнікаў. Велічыня зямельнага надзелу вызначала памер вайсковай павіннасці (земскай службы). Ад кожных 8, а з 1566 — 10 службаў (у службе 2 дымы) землеўладальнік абавязаны быў выставіць 1 узброенага і добра экіпіраванага конніка. Коннікі складалі почат (узброены атрад) землеўладальніка. Землеўласнік, які меў менш як 8—10 службаў, ішоў служыць сам. Ад службы вызваляліся толькі хворыя, непаўналетнія або занятыя на дзярж. пасадах. У 16—17 ст. асн. частку П.р. складала шляхта. У войска ўваходзілі таксама прывілеяваныя сяляне (напр., *асочнікі*), *панцырныя баяры*, *путныя баяры*, мяшчане, якія валодалі зямлёй (*конныя мяшчане*), *казакі*, *татары*, *пяцігорцы* і інш. Ухвалу (пастанову) аб скліканні П.р. мог прыняць толькі вальны сойм. Тэрмін земскай службы вызначаўся на сойміках. Кіраваў П.р. найвышэйшы, з 17 ст. вял. *гетман* ВКЛ, аднак нярэдка камандаванне прымаў кароль і вял. князь літоўскі, які мог дзяліць войска на часткі і нават пасылаць яго за межы княства. П.р. з тэрыторыі ўсёй дзяржавы склікалася ў 1528, 1563, 1566, 1567, 1620, 1651, 1654 і інш. гады. Зыходзячы з колькасці і складу насельніцтва, ВКЛ магло збіраць у 1-й пал. 16 ст. каля 40 тыс. чал. апалчэнцаў. Аднак мабілізацыі звычайна былі няпоўныя. У 1528 да попісу з'явілася 19 844 чал. земскай службы, у т.л. 11 214 шляхты, 7754 чал. панскіх поча-

таў, 724 татараў, 149 мяшчан. У 1567 было сабрана 28 026 апалчэнцаў (24 392 коннікі і 3664 пехацінцы). У ходзе Інфлянцкай вайны 1558—82, у час полацкай кампаніі 1579 у 30-тысячным войску ВКЛ шляхецкае апалчэнне і панскія початы складалі адпаведна 11 і 10 тыс. У 1580 у час выправы на Вял. Лукі ў 25-тысячным войску ВКЛ наёмнікі складалі каля 20%, астатнія — апалчэнцы. Такім чынам, П.р. было асновай узброеных сіл дзяржавы. Аднак ужо з пач. 17 ст. выявіліся значныя недахопы такой формы арганізацыі войска. Яго эфектыўнасць зніжалі недысцыплінаванасць вольналюбівай шляхты, горшыя ў параўнанні з наёмным войскам зброя і коні. Хоць патрабавалася выстаўляць коннікаў у адпаведным рыштунку (гусарскім, казацкім ці пяцігорскім), апалчэнцы з'яўляліся часам з вошчапам, бердышом або толькі з кордам, пулгакам, алебардай. Тэрытарыяльны прынцып фарміравання земскага войска прывёў да таго, што ў адной харугве былі і гусары, і пяцігорцы, і казакі, і рэйтары, што паслабляла баяздольнасць кожнай катэгорыі войска. У 1654 соймікі прынялі ўхвалу выстаўляць ад павета па 4 асобныя харугвы — гусарскую, рэйтарскую, казацкую і пяхотную. Найб. яскрава недахопы П.р. і іх няздатнасць абараняць краіну выявіліся ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У першыя гады вайны бел. шляхта масава ўхілялася ад мабілізацыі, а пры ўмове захавання сваіх маёнткаў нават пераходзіла на бок непрыяцеля. Напр., у 1654 з Віленскага ваяв. П.р. выставіў толькі Віленскі пав. Тым не менш, інстытут П.р. існаваў аж да падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст.

*Літ.*: Kotarski H. Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckiej 1576—1582 // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1970. T. 16, cz. 2; Wisner H. Wojsko litewskie I połowy XVII wieku. Cz. 1 // Там жа. 1973. T. 19, cz. 1; Юхо И.А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Яго ж. Военное право Белоруссии и Литвы в XVI веке // Весн. БДУ. Сер. 3. 1987. № 3; Сагановіч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994.

*Генадзь Сагановіч.*

**паспольства**, сярэдні грамадскі слой у гарадах ВКЛ, які падлягаў гар. праву, але не быў дапушчаны да ўлады і гар. пасад верхнім слоем — патрыцыятам. П. складалася з менш заможных купцоў і рамеснікаў. Паміж ім і патрыцыятам ішла барацьба за ўплыў у *магістраце*, якая часам вылівалася ў паўстанні, падтрыманыя ніжэйшым слоем гараджан — плебсам (напр., *Магілёўскія паўстанні 1606—10*).

**Паставы** (цяпер горад, цэнтр Пастаўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав., пасля горад, цэнтр *Завілейскага павета*, на р. Мядзелка. Вядомы з 1552 як прыватнае мястэчка (у т.л. Дэшпатаў-Зяновічаў). У 1552 пабудаваны драўляны касцёл Маці Божай (перабудаваны ў 1760, не збярогся). Паводле інвентару 1628 цэнтрам П. была рыначная плошча, тут стаялі касцёл з плябаніяй, карчма, 6 двароў гандляроў і рамеснікаў. На вуліцах-дарогах, што вялі на Мядзел, Глыбокае і Друю, было 26 двароў. За р. Мядзелка (у інвентары Мядзеліца) размяшчалася прадмесце Зарэчча, якое мела 17 двароў. Былі таксама 2 пасады па 8 і 9 двароў. Усяго ў П. налічвалася 66 двароў. Пасля 1640 на востраве (на ПнУ ад цэнтра), утвораным выгінам р. Мядзелка і каналам, пабудаваны кляштар францысканцаў з касцёлам (не збярагліся). Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у П. засталося 5 двароў. У 2-й пал. 18 ст. П. перайшлі да надворнага падскарбія ВКЛ А.*Тызенгаўза*, па ініцыятыве якога тут пабудаваны ткацкія майстэрні, млын, гарбарня, архітэктурны комплекс з жылых дамоў, гандлёвых радоў і палаца. На гандлёвай плошчы месціліся 9 дамоў рамеснікаў, дом урача, будынкі канцылярыі і суда, аўстэрыя, 3 заезныя дамы. Ад плошчы адыходзілі ў радыяльных напрамках 4 вуліцы: Віленская (на Пд), Браслаўская (на Пн), Зарэчная (на У) і Задзеўская (на З). З 1775 у П. адбываліся сесіі гродскага суда. У 1782—85 ў П. дзейнічала тэатральная школа Тызенгаўза, пераведзеная з Гародні. З 1791 П. — горад, цэнтр Завілейскага пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Центры городов Белоруссии в XVI—первой половине XIX в. // Архитектурное наследство. М., 1983. Вып. 31; Зямчонак Я. Бароны Тызэнгаўзы ў гісторыі Паставаў // Спадчына. 1997. № 5; Скорабагатчанка А. Спадчына Тызенгаўзаў у Паставах // Мастацтва. 1999. № 11; Чантурия Ю.В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI—первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Мн., 2005. С. 264—269.

*Іосіф Зямчонак.*

**пастар** (ад лац. pastor пастыр, пастух), служыцель культу ў плынях пратэстантызму, якія адмаўляюць інстытут свяшчэнства (не прызнаюць духавенства асобнымі пасрэднікамі паміж Богам і звычайнымі вернікамі). Выбіраецца, як і прэсвітэр, рэліг. абшчынай са свайго асяроддзя. Прыхільнікі кальвінізму ў ВКЛ выкарыстоўвалі ў дачыненні да П. таксама тэрмін «міністр».

**Пастаянная Рада** (польск. Rada Nieustająca), вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэчы Паспалітай у 1775—94. Першы пастаянна дзеючы паміж сесіямі сойма цэнтр. урад. Створаны на *сойме 1773—75* пасля ратыфікацыі ўмоў 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) для замацавання пераважнага ўплыву Рас. імперыі на ўнутраныя справы дзяржавы. Функцыі П.Р. аформлены статутам 1775. Складалася з караля, 18 сенатараў і 18 паслоў ад ваяводстваў са шляхты. Членаў П.Р. выбіралі на сойме тайным галасаваннем на 2 гады, пасля чаго праводзіліся перавыбары 1/3 яе складу. Старшынстваваў у Радзе кароль (пры яго адсутнасці — прымас), які меў права заканадаўчай ініцыятывы і рашаючага голасу пры нязгодзе членаў. Падзялялася на дэпартаменты замежных спраў, скарбу, паліцыі, войска, справядлівасці. П.Р. атрымала права скліkaць звычайныя і надзвычайныя соймы нават без згоды караля, кантраляваць дзярж. скарб без справаздачы перад соймам. Пры падтрымцы Расіі П.Р. ўвяла эмфітэтычнае (абмежаванае 50 гадамі) трыманне староствў, адзінае мыта, вэксальнае права, градацыю падымнага падатку, пераўтварыла панцырныя і гусарскія харугвы ў брыгады нац. кавалерыі, увяла падзел арміі на 6 дывізій, удзельнічала ў заснаванні *Адукацыйнай камісіі*. Рэформы суправаджаліся сутычкамі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і магнацкай апазіцыі за кантроль над войскам і скарбам. Барацьба завяршылася на сойме 1776 перамогай караля і прыняццем новага статута П.Р. Кароль вярнуў уладу над войскам, права раздачы

афіцэрскіх чыноў. Кіраванне арміяй адбывалася праз ваенны дэпартамент П.Р. Ён жа дапамагаў мясц. адміністрацыі ў падаўленні сял. хваляванняў і судам у рэалізацыі іх пастаноў па маёмасных спрэчках шляхты. Спробы караля ў 1778 цэнтралізаваць кіраванне гарадамі праз камісараў і здаць збор гар. падаткаў у арэнду праз конкурс сустрэлі процідзеянне магнатаў і вярхоў магістратаў. Апазіцыя ўзмацнілася, калі ў 1787 кароль для ажыццяўлення новых рэформ паспрабаваў абаперціся на Расію. На *Чатырохгадовым сойме 1788—92* апазіцыя дамаглася 14.1.1789 ліквідацыі П.Р. як «сродку замежнага дыктату і пагрозы ўкаранення нязвыклага дынастычнага абсалютызму». Сойм сканцэнтраваў усю паўнату ўлады, а дэкаратыўныя функцыі нагляду за выкананнем законаў аддаў *Стражы Правоў* на чале з каралём. 21.4.1793 *Таргавіцкая канфедэрацыя* аднавіла П.Р. для склікання *Гарадзенскага сойма 1793* з мэтай ратыфікацыі 2-га падзелу Рэчы Паспалітай. Сойм абраў П.Р. з 24 чал. (2 біскупы, 4 сенатары, 4 міністры, 14 земскіх паслоў, з якіх 11 было ад ВКЛ) пад кіраўніцтвам караля і маршалка Ю.Анквіча. Рада была абрана на 4 гады як незалежны ад сойма ўрад з правам заканадаўчай ініцыятывы і тлумачэння закону. Мела дэпартаменты скарбу, войска, паліцыі, справядлівасці, адукацыі і замежных спраў, наглядала за *камісіямі парадкавымі цывільна-вайсковымі* ў ваяводствах і паветах. Кароль прызначаў сенатараў з прапанаваных Радай 2 кандыдатаў. П.Р. праводзіла скарачэнне войска, 14.4.1794 загадала вынішчыць з усіх актавых кніг канстытуцыі Чатырохгадовага і Гарадзенскага соймаў. Праіснавала да стварэння ў час паўстання 1794 *Найвышэйшай нацыянальнай рады* ў Варшаве і *Найвышэйшай літоўскай рады* ў Вільні.

*Літ.*: Szujski J. Dzieje Polski. T. 4, cz. 2. Lwów, 1866; Cierowski J.A. Historia Polski, 1764—1864. Warszawa, 1987; Czaja A. Między tronem, buławą a dworem petersburskim: Z dziejów Rady Nieustającej, 1786—1789. Warszawa, 1988; Яго ж. Lata wielkich nadziej. Warszawa, 1992.

***Яўген Анішчанка.***

**пастожнае**, падатак з сялян у ВКЛ, памер якога вызначаўся ў залежнасці ад памераў і якасці сенажаці і ад колькасці нарыхтаваных стагоў сена.



**Пастаянная Рада**. Медзярыт невядомага мастака.

**Патоцкія**, шляхецкі род герба «Пілава». Прозвішча ад в. Потак у Ксёнжскім пав. Кракаўскага ваяв. У 15—16 ст. П. займалі службовыя пасады пры дварах феадалаў і ў войску, а на мяжы 16—17 ст. дасягнулі сенатарскай годнасці. У 17—18 ст. займалі вышэйшы дзярж. і вайсковыя пасады ў Кароне Польскай. Мелі вялізныя зямельныя ўладанні на Украіне і ў Польшчы. Карысталіся графскім тытулам, які ў 18 ст. прызнаны ў Аўстрыі і ў 19 ст. ў Расіі. З Беларуссю найб. былі звязаны:

Крыштоф (каля 1600—вер. або кастр. 1675), сын Андрэя, кашталяна крамянецкага. Праз шлюб з Аленай з Валовічаў набыў мяст. Сідра ў Гарадзенскім пав., мяст. Галоўчын, Новы Быхаў, с. Тайманаў у Аршанскім пав.; меў в. Здзітавец у Берасцейскім ваяв. У другім шлюбе жанаты з Альжбетай з Дунін-Раецкіх (удава А.Халецкага і Г.М.Трызны). Займаў дзярж. пасады ў ВКЛ: чашнік у 1645—46, падстолі ў 1646—53, стольнік у 1653—58, крайчы ў 1658—61, падчашы з 1661, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1662 і 1673; Выбіраўся пасолам на соймы. Удзельнічаў у вайне з укр. казакамі, у *Лоеўскай бітве 1651*, узяцці Любеча і Кіева ў 1651, у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* (кампаніі 1654—55). Быў звязаны з Б. і Я. Радзівіламі, але не падпісаў *Кейданскую унію 1655*. Вызнаваў кальвінізм.



Да арт. **Патоцкія**. І.Патоцкі. Мастак М.Такарскі.

Міхал (?—1711?), генерал-маёр, падстолі ВКЛ з 1700.

Станіслаў Уладзіслаў (?—27.6.1732), сын Фелікса Казіміра. Лоўчы ВКЛ у 1704—10, вял. стражнік ВКЛ у 1710—29, ваявода белзскі з 1729. Неаднаразова быў пасолам на соймы.

Антоні Міхал (студз. 1702—11.4.1766), сын Аляксандра Яна, ваяводы смаленскага. Падстолі ВКЛ у 1728—32, пасля ваявода белзскі. Валодаў мяст. Галоўчын, Горы-Горкі ў Аршанскім пав., Краснаполле ў Мазырскім пав., праз шлюб з Марыяй Людвікай з Сапегаў набыў мяст. Зэльва ў Ваўкавыскім пав., с. Чарлёна ў Гарадзенскім пав. і інш.

Яўстахі (каля 1720—25.2. 1768), сын Ежы, старасты грабавецкага і тлумацкага. Генерал-маёр коронната войска (1752), чашнік кароны ў

1754—59, генерал артылерыі ВКЛ з 1759, адначасова ў 1762—67 староста львоўскі.

Іахім Кароль (?—май 1791), сын Яна, кашталяна брацлаўскага. Генерал-маёр кароннага войска (1758), староста церабоўскі, падчашы ВКЛ у 1763—80. Адным з першых магнатаў далучыўся да *Барскай канфедэрацыі* і ў 1768 стаў маршалкам Брацлаўскага ваяв. Праз шлюб з Тарэзай з Сапегаў набыў Трасцяніцкі ключ (12 вёсак) у Берасцейскім пав., Тураўскі ключ (мяст. Тураў і 10 вёсак) у Пінскім пав., маёнтак Рось (22 вёскі і фальваркі) у Ваўкавыскім пав. і інш.

Ігнацы (Раман Ігнацы Францішак; 28.2.1750, Радзынь, Люблінскае ваяв.—20.8.1809), сын Яўстахія. Выдатны паліт. дзеяч Рэчы Паспалітай, асветнік. Вучыўся ў «Калегіум нобіліум» у Варшаве (1758—65) і ў «Калегіум назарэнум» у Рыме (да 1770). З 1770-х г. прыбліжаны караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пісар вялікі ВКЛ у 1773—83, маршалак надворны ВКЛ у 1783—91, маршалак вялікі ВКЛ у 1791—92, маршалак Пастаяннай Рады ў 1778—80. З часу ўтварэння ў 1773 *Адукацыйнай камісіі* адзін з гал. яе дзеячаў, узначаліў Таварыства элементарных кніг. Быў адным з лідэраў рэфарматарскай партыі на *Чатырохгадовым сойме 1788—92*, адзін з аўтараў *Канстытуцыі 3 мая 1791*. За ўдзел у працы дэпутацыі па выпрацоўцы канстытуцыі прызначаны міністрам паліцыі абодвух народаў у *Стражы Правоў*, з-за чаго выйшаў са складу Адукацыйнай камісіі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* выконваў абавязкі адсутнага ваен. міністра. У 1792—94 у эміграцыі ў Саксоніі. Адзін з арганізатараў *паўстання 1794*. Увайшоў у склад *Найвышэйшай нацыянальнай рады* як кіраўнік аддзела замежных інтарэсаў. Належаў да памяркоўнага крыла паўстанцаў. Пасля падаўлення паўстання зняволены ў Пецярбургу. З 1796 жыў у Аўстрыі.

Станіслаў Шчэнсны (Фелікс; 1752?, Крыстынопаль, Валынскае ваяв.—14 або 15.3.1805), сын Францішка Салезыя, ваяводы кіеўскага. Харужы вялікі каронны ў 1774—80, ваявода рускі ў 1782—88, генерал каронай артылерыі ў 1788—92, чл. Пастаяннай Рады ў 1782—86, чл. Адукацый-



Да арт. **Патоцкія**. Медаль у гонар С.Ш.Патоцкага. Медальер І.Ф.Гольгаўзер. 1786.

най камісіі ў 1782—93, генерал- лейтэнант (1784). На Чатырохгадовым сойме 1788—92 выступаў супраць палітыкі прагрэсіўных рэформ, адзін з гал. праціўнікаў Канстытуцыі 3 мая 1791. Прапаноўваў пераўтварыць Рэч Паспалітую ў федэратыўную рэспубліку з 3 частак (Польшча, укр. землі, ВКЛ) на чале з магнатамі. Разам з інш. праціўнікамі рэформ у Рэчы Паспалітай падпісаў 27.4.1792 у Пецярбургу акт утварэння *Таргавіцкай канфедэрацыі* і стаў яе генеральным маршалкам. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 у Берасці, потым у Гародні, ажыццяўляў вярхоўную ўладу ў Рэчы Паспалітай. У пач. 1793 пераехаў у Пецярбург, з-за хваробы пакінуў пасаду маршалка канфедэрацыі і выехаў за мяжу. У час паўстання 1794 завочна прыгавораны да смяротнага пакарання як здраднік. У 1795 атрымаў чын рас. генерал-аншэфа, жыў у сваіх укр. маёнтках.

*Літ.*: Michalik B. Działalność oświatowa Ignacego Potockiego. Wrocław etc., 1979; Janeczek Z. Ignacy Potocki Marszałek Wielki Litewski (1750—1809). Katowice, 1992; Miller M. Arystokracja. Warszawa, [1993]; Lojek J. Dzieje zdrajcy — Szczęsny Potocki. Warszawa, 1995.

***Валерый Пазднякоў.***

**патрава**, іспаш, псаванне пасеваў і сенажацей свойскай жывёлай. Паводле Статута ВКЛ 1588 гаспадар, якому зрабілі П., не мог самаўпраўна забраць чужую жывёлу, нават калі застаў яе на месцы. Ён павінен быў засведчыць П. пабочнымі людзьмі і разам з імі ці з *возным* вызначыць прычыненую шкоду.

**патранімія** (грэч. patronymia найменне па бацьку ад pater бацька + onyma імя), форма грамадскай арганізацыі, характэрная пераважна для патрыярхальна-родавага ладу. Часта захоўвалася ў класавым грамадстве. П. ўяўляе сабою групу сваяцкіх вял. ці малых сем'яў, якія ўзніклі ад члянення адной вял. патрыярхальнай сям'і, захавалі пэўнае гаспадарчае, грамадскае, ідэалагічнае адзінства і складалі асобнае паселішча ці яго частку. Апошнія, як і сама П., звычайна называліся па імю продка-заснавальніка. У ВКЛ, асабліва на Палессі, у 13—16 ст. патранімічнай была частка *дварышчаў*, дзе жылі родзічы, якія мелі адно найменне і калектыўна валодалі зямельным участкам. На Беларусі былі пашыраны асобныя звычаі патранімічнага паходжання, у прыватнасці сябрына, бонда. Некаторыя з гэтых звычаяў, напр. бонда, часткова захаваліся да нашага часу. Патранімічную назву мае шмат паселішчаў (Пятровічы, Міхайлавічы, Сямёнавічы, Дзмітравічы і інш.).

***Міхаіл Піліпенка.***

**патрыстыка**, патрыстычная літаратура (ад грэч. pater і лац. pater бацька), кананічна зацверджаныя творы т.зв. айцоў царквы — рымскіх і візантыйскіх багасловаў, ідэолагаў філасофска-тэалагічнага вучэння і дактрын хрысціянскай царквы 2—8 ст., а таксама бібліяграфія і даследаванні па гэтым прадмеце. Сфарміравалася ў перыяд распаду познаантычнага грамадства, выкарыстоўвала яго культурныя традыцыі. Гал. змест П. — абгрунтаванне, тлумачэнне і прапаганда прынцыпаў хрысціянскай рэлігіі, барацьба супраць язычніцтва, палеміка з ератычнымі плынямі ўнутры хрысціянства. Адыграла важную ролю ў фарміраванні ідэалаў культуры сярэдневякоўя, разуменні духоўнага свету чалавека таго часу.

П. ўключае царк. жанры пісьменнасці: экзегетыку (тлумачэнні), гамілетыку, палемічныя трактаты-памфлеты, казанні, павучанні, агіяграфічную л-ру, гімнаграфію (песнапенні). У выніку падзелу раннехрысціянскай тэалогіі на заходнюю і ўсходнюю ў 5 ст. вылучыліся адносна самастойныя плыні П.: лацінская і грэка-візантыйская. Лацінская П. мела больш рацыяналістычны характар, грэка-візантыйская аддавала перавагу алегарычнай і сімвалічнай экзегезе (тлумачэнню). У лацінскай П. вял. значэнне мелі творы Юсціна, Тэртуліяна, Амвросія Медыяланскага, Ераніма, Грыгорыя Вялікага; цэнтр. месца належыць Аўгусціну Аўрэлію (354—430), «Спаведзь» якога вызна-

чаецца глыбінёй псіхалагічнага аналізу, зрабіла ўплыў на сусветную л-ру. З грэка-візантыйскіх пісьменнікаў найб. вядомыя: Афанасій Александрыйскі (аўтар «Жыція Антонія»), Васіль Кесарыйскі (Вялікі, аўтар «Шастаднева»), паэт Грыгорый Назіянзін (Багаслоў), Грыгорый Ніскі (аўтар «Дыялога пра душу»), гамілетык Іаан Златавуст, філосаф Іаан Дамаскін (аўтар трактата «Крыніцы ведаў»). Творы лепшых патрыстычных пісьменнікаў з'яўляюцца яскравымі прыкладамі паэтычнага мастацтва (вершы Іаана Дамаскіна, лірыка і паэмы «Пра мой лёс», «Пра пакуты маёй душы» Грыгорыя Назіянзіна), эпісталярнага (Васіль Вялікі) і гістарыяграфічнага (Аўгусцін Аўрэлій) жанраў. У Стараж. Русі перакладныя творы візантыйскай л-ры распаўсюджваліся з 10 ст. На ўзор грэчаскай анталогіі Іаана Златавуста тут узнікалі свае «Златавусты», «Златаструі», «Ізмарагды» і інш. зборнікі павучанняў. Уплыў грэка-візантыйскай П. асабліва адчувальны ў «словах» Кірылы Тураўскага. П. шырока разыходзілася на бел. землях у рукапісах («словы» Іаана Златавуста і Ісака Сірына, 1428; «Павучанне Яфрэма Сірына», 1492). Выдатны бел. асветнік і друкар Ф.*Скарына* ў сваіх тлумачэннях кніг Бібліі выкарыстоўваў Васіля Вялікага, Грыгорыя Дваяслова, Ераніма, Феадосія, Феадарыта Кіпрскага, Ісака Сірына, Яфрэма Сірына, Іаана Дамаскіна, Іосіфа Канстанцінопальскага і інш., а таксама аўтараў, якія не былі прызнаны царквой (напр., Арыген). У сваіх экзегетычных пабудовах Скарына паказаў сябе сапраўдным прадаўжальнікам ідэалаў патрыстычнай лініі пазнання, якая па шэрагу пунктаў уступала ў спрэчку з рацыяналістычна звужанай карцінай свету, узятай на ўзбраенне эпохай Адраджэння. У 16—17 ст. з развіццём кнігадрукавання побач з *палемічнай літаратурай*, скіраванай супраць езуіцка-каталіцкай экспансіі, П. атрымала найб. пашырэнне. З'явіліся пераклады лацінскай П.: творы Аўгусціна Аўрэлія «Пра горад Божы», «Богападобная любоў», зборнікі павучанняў. У друкарнях Віленскага брацтва і Мамонічаў выдадзены «Слова пра цярплівасць і богаўхваленне» Іаана Златавуста, «Спрэчка другая хрысціяніна...» Іаана Дамаскіна (1585), «Маргарыт» Іаана Златавуста (1588) і інш. Папулярным на Беларусі патрыстычным пісьменнікам быў Яфрэм Сірын, зборнікі якога друкавалі ў Вільні («Павучанні», 1780, «Кніга прападобнага айца нашага Яфрэма Сірына», 1768, «Розныя павучальныя словы», 1764), у Супраслі («Павучанні», 1786, 1788, 1789; «Паранесіс», 1791) і інш. гарадах. Працы Грыгорыя Назіянзіна, Іаана Дамаскіна, Іаана Златавуста, Яфрэма Сірына перакладалі С.*Зізаній*, *Лявонцій* Карповіч і інш. Вядомасць набыў пераклад «Шастаднева» Васіля Вялікага, зроблены Епіфаніем Славінецкім (1656). П. шырока выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці І.*Фёдараў*, Г. і М. Сматрыцкія, С.Кімбар, Л. і С.Зізаніі, Л.Карповіч, Е.Плецянецкі, І.Вішанскі, З.Капысценскі, В.Суражскі, П.Бярында, І.Гізель, І.Галятоўскі, Л.Барановіч, Дз.Туптала (Растоўскі), інш. бел. і ўкр. асветнікі і царк. дзеячы. Значнае месца творы П. займалі ў пашыраных на Беларусі зборніках т.зв. вучыцельнай л-ры 16—18 ст. («Падэкты», Вільня, 1592; «Анфалагіён», Еўе, 1613; «Дыоптра», Еўе, 1619; «Перла мнагацэннае», Магілёў, 1694, 1699, і інш.). Заклікамі трымацца бацькоўскай веры як асновы нац. традыцыі і культуры яны набывалі выхаваўчае, маральна-дыдактычнае і патрыятычнае гучанне.

*Публ.*: Памятники византийской литературы IV—IX вв. М., 1977; Памятники средневековой латинской литературы IV—IX вв. М., 1970; Памятники литературы Древней Руси, XI—начало XII века. М., 1978.

*Літ.*: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Византийская литература. М., 1974; Аверинцев С.С. Поэтика древневизантийской литературы X—XVII в. М., 1977; История русской литературы X—XVII вв. М., 1980; Замалеев А.Ф., Зоц В.А. Мыслители Киевской Руси. Киев, 1981; Історія української літератури. Київ, 1987; Тысячелетние традиции болгарской литературы // Родник златоструйный. М., 1990; Яскевіч А.А. Творы Ф.Скарыны: Жанравая структура, філасофскія погляды, мастацтва слова. Мн., 1995; Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1997.

***Генадзь Грушавы, Алена Яскевіч.***

**Патрыяршы рукапіс**, гістарычны зборнік 2-й пал. 17 ст. Месца ўзнікнення дакладна невядома. У ім захаваліся 3 помнікі бел. летапісання. Пад назвай «Кройника о великих князех литовских» у зборніку змешчаны *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* у рэдакцыі, блізкай да 2-й часткі Летапісу Красінскага (т.зв. Патрыяршы А). У канцы твора шэраг гіст. запісаў, у т.л. пра Аршанскую бітву 1514 з доўгім пералікам рус. баяр, узятых у палон. Далей у П.р. змешчаны няпоўны, без пачатку і канца, тэкст 2-га бел.-літ. летапіснага зводу — *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* — пашыранай рэдакцыі, аналагічны *Румянцаўскаму летапісу* (т.зв. Патрыяршы Б). Завяршае зборнік *Баркулабаўскі летапіс*, які захаваўся ў адзіным спісе. Апрача Баркулабаўскага летапісу, астатнія бел. летапісныя творы П.р. не апублікаваны, а выкарыстоўваліся толькі для розначытанняў да інш. спісаў у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907). У П.р. змешчаны таксама розныя царк.-рэліг. творы і летапісныя ўрыўкі на царк.-слав. і стараж.-рус. мовах. Да 1917 зберагаўся ў Патрыяршай б-цы (адсюль назва), цяпер у Гіст. музеі ў Маскве.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**патужнікі**, гл. *Сябры*.

**патурэмнае**, пакалоднае, паланцужнае, устаноўленая Статутам ВКЛ 1588 плата ад вязня пры яго выхадзе з турмы, дзе яго трымалі прыкаваным да калодкі ці на ланцугу. З шляхціца бралі 12, з простага чалавека — 6 грошаў. З абвінавачаных у злачынствах П. плаціў той, каго суд прызнаваў вінаватым, або повадавы бок (калі абвінавачаны быў неплацежаздольны). За прыгоннага злачынцу П. плаціў яго гаспадар.

**паўгрош**, манета наміналам у $^1/_2$ гроша ў шэрагу краін Еўропы ў 14—18 ст., у пэўнай ступені ў ВКЛ у 16 ст. набліжалася да грашова-лікавай адзінкі. Найб. пашыраныя ў ВКЛ у 16 ст. сярэбраны П. каронны (Польскага каралеўства) канца 14 ст.—1511 (на адным баку выява герба «Белы арол», на другім — кароны) з лігатурнай масай 0,92—1,72 г, пробай 375—438 праміле, дыяметрам 20—23 мм, таўшчынёй 0,8 мм і літ. П. канца 15 ст.—1566 (на адным баку выява герба «Пагоня» і дата пад ёй, на другім — «Белы арол») з лігатурнай масай 1,25—1,29 г, пробай 375 праміле, дыяметрам 22 мм, таўшчынёй 0,8 мм. Курс кароннага П. ў 16 ст.


**Паўгрошы**: 1 — Ягайла (г. Усхова); 2 — Аляксандр (г. Вільня); 3 — Казімір IV (г. Вільня); 4 — Жыгімонт I (г. Вільня, 1525); 5 — Жыгімонт II Аўгуст (г. Вільня, 1562).

складаў 4/5 ад курса літоўскага. У канцы 16 ст. ў адносінах да літ. П. на У Беларусі зафіксавана назва «пятак» (5 пенязяў). З айчыннымі П. канкуравалі падобныя па тыпу і метралогіі да каронных свідніцкія (багемскія) П. 1517—28 (лігатурная маса 0,90 г, проба 455 праміле), якія зніmaліся з абарачэння ў Польскім каралеўстве і ВКЛ у 1528—62. П. Рэчы Паспалітай біліся з серабра эпізадычна ў 1579—80, 1620, з медзі — з перапынкамі ў 1765—92 (маса 1,95 г). Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 104.

*Літ.*: Kubiak S. Monety pierwszych Jagiellonów (1386—1444). Wrocław etc, 1970; Mikołajczyk A. Obieg pieniężny w Polsce środkowej w wiekach od XVI do XVIII. Łódź, 1980; Kopicki E. Ilustrowany skorowidz pieniędzy polskich i z Polską związanych. Teksty. Cz.1—2. Tablice. Cz.1—2. Warszawa, 1995.

***Іван Сінчук.***

**паўкапы**, палова *капы*. 1) Грашова-лікавая адзінка ў 30 грошаў. Распаўсюджана ў ВКЛ у сярэдзіне 15—2-й пал. 16 ст., у 16 ст. сустракаюцца таксама формы «паўкопак», «паўкоп'е». 2) Лікавая адзінка ў 30 рэчаў, асабліва шырока вядомая па кнігах магілёўскага магістрата ў 2-й пал. 17 ст.

***Іван Сінчук.***

**Паўлаўская рэспубліка**, Паўлаўская Рэч Паспалітая, маёнтак Паўлава (Мерач) у Віленскім пав., дзе ў 2-й пал. 18 ст. былі праведзены кардынальныя сац.-эканам. рэформы. У 1767 маёнтак атрымаў найменне Паўлава ад імя яго ўладальніка П.К.Бжастоўскага (гл. ў арт. *Бжастоўскія*). Прыхільнік ідэй Асветніцтва, Бжастоўскі ажыццявіў комплекс рэформ па паляпшэнні становішча сялян, якое рэгулявалася статутамі 1769 і 1791, выдадзенымі Бжастоўскім са згоды сялян. Статутам 1769 сялянам была дадзена асабістая вольнасць і права пакінуць маёнтак пры ўмове выстаўлення за сябе замены і сплочвання даўгоў. Паводле выконваемых павіннасцей сяляне былі падзелены на пеняжнікаў, баяр, цяглых і кутнікаў. Першыя 3 групы атрымалі ў вечнае карыстанне вял. гаспадаркі, з якіх неслі павіннасці (адпаведна грашовую, грашова-адработачную і адработачную з данінай). У 1786 фальварачная (панская) зямля маёнтка амаль цалкам была раздадзена сялянам, а адработачная павіннасць заменена на чынш. Была ліквідавана цераспалосіца, сяляне атрымлі права на вольнае карыстанне Мерацкай пушчай, права распараджацца сваёй маёмасцю (часткова зямлёй), займацца рамёствамі і гандлем. Было ўведзена шырокае сял. самакіраванне на ўзор парламента з 2 палат. У вышэйшую палату ўваходзілі прызначаныя Бжастоўскім адміністратары: губернатар, намеснік (пісар), цівун, арандатары, а таксама выбарныя прадстаўнікі сял. самакіравання: цэнзар, бурмістр, 2 лаўнікі, 2 ляснічыя, 2 мастаўнічыя, дзесятнікі. Пасля ліквідацыі фальварка панскія ўраднікі страцілі значэнне і выведзены з палаты. З 1791 у ёй засядалі цэнзар, падцэнзар, 4 стражнікі, бурмістр, 4 дзесятнікі (войты), паддзесятнікі, 2 мастаўнікі (будаўнічыя), 4 леснікі. Пасяджэнні адбываліся ў спец. пабудаваным доме. Ніжэйшая палата складалася з усіх самастойных гаспадароў маёнтка, яе пасяджэнні адбываліся асобна пад старшынствам губернатара. У 1791 «парламент» заменены камісіяй з 12 ураднікаў і прызначаемых Бжастоўскім кожныя 4 гады 8 сял. «дэпутатаў». Статутам 1769 уведзены суд для разгляду спраў паміж сялянамі ў складзе губернатара, пісара, цівуна і 2 лаўнікаў, выбіраемых сялянамі. У 1791 устаноўлены штотыднёвы суд з выбарных лаўнікаў. Апеляцыю на яго рашэнні можна было падаць у 2-і суд з 3 гаспадароў. Статутам 1769 уведзена ашчадна-пазыковая каса, дзе сяляне маглі атрымаць пазыку грашыма, збожжам і жывым інвентаром. У 1788 на ўтрыманне сталага фельчара і школы быў прызначаны капітал у 30 тыс. зло-

Да арт. **Паўлаўская рэспубліка**. Наданне П.К.Бжастоўскім статута сялянам в. Паўлава. Мастак Ф.Смуглевіч. 1795.



тых, з якога штогод па некалькі соцень злотых ішло фельчару і на ўтрыманне аптэкі. Сваім коштам Бжастоўскі трымаў 2 дырэктараў для навучання дзяцей і дарослых, потым адчыніў школу, у якой выкладалі чытанне, пісьмо, арыфметыку, рэлігію, геаграфію краю, асновы с.-г. навукі, навучалі песням і прыпавесцям, арганізоўваліся і практычныя заняткі, у т.л. хатняга рамяства. З цягам часу с.-г. навучанне пашыралася. У 1770 Бжастоўскі выдаў падручнік «Пра земляробства для выгады гаспадароў, якія пражываюць у Паўлаве» (1-ы с.-г. падручнік для сялян у Рэчы Паспалітай) і падручнік для сялян са звесткамі пра хваробы і лекі. З гаспадароў і іх дарослых сыноў было арганізавана сял. войска (міліцыя), якое мелася на ўвазе і для абароны краіны. Яно забяспечвалася мундзірам і агнястрэльнай зброяй аднаго калібру, якая захоўвалася ў сялян. Бжастоўскі планаваў удзел гэтага войска ў паўстанні 1794. У чэрв. 1794 войска інспектаваў і высока ацаніў Я.Ясінскі. З і 24 ліп. Паўлава штурмавалі рас. войскі, а ў канцы ліп. яны захапілі маёнтак. Не маючы магчымасці трымаць маёнтак пад рас. уладай, у канцы 1794 Бжастоўскі прадаў яго Ф.Машынскаму пры ўмове захавання яго статута. Пазней маёнтак перайшоў ва ўласнасць інш. паноў, якія павысілі павіннасці і абмежавалі правы сялян, аднак доўгі час прытрымліваліся асн. палажэнняў статута Паўлава. Некаторыя з рэформ Бжастоўскага мелі паралелі ў інш. маёнтках Рэчы Паспалітай 18 ст. (напр., у маёнтку Храптовіча ў Шчорсах), аднак заснаванне «сялянскай рэспублікі» было беспрэцэдэнтным. Праведзеныя ў духу Асветніцтва рэформы садзейнічалі развіццю капіталістычных, грашовых адносін у сял. гаспадарцы, павышэнню дабрабыту насельніцтва. Рэформы Бжастоўскага сустрэлі варожыя адносіны большасці землеўласнікаў і ўхваляліся перадавымі коламі Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Obst J. Rzeczpospolita Pawłowska // Litwa i Ruś. 1913. Z. 3; Rostworowski Z. Reforma pawłowska Pawła Ksawerego Brzostowskiego (1767—1795) // Przegląd historyczny. 1953. № 1—2; Bartyś J. Rzeczpospolita Pawłowska na tle reform włościańskich w Polsce w XVIII wieku. Warszawa, 1982.

***Валерый Пазднякоў.***

**Паўночная вайна 1655—60**, вайна Швецыі ў саюзе з Брандэнбургам і Трансільваніяй супраць Рэчы Паспалітай, пазней таксама супраць Аўстрыі, Даніі, Брандэнбурга і Галандыі. Перапляталася з *вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і вайной Расіі супраць Швецыі 1656—61. Пачата шведскім каралём *Карлам Х Густавам* нападам на Польшчу ў ліп. 1655. Велікапольскае паспалітае рушэнне ў выніку здрады 25 ліп. капітулявала пад Уйсцем. 8 вер. шведы занялі Варшаву, 17 кастр. — Кракаў, 26 кастр. капітулявала каронная армія, кароль Ян II Казімір выехаў у Сілезію. За паўгода шведы захапілі амаль усю тэр. Польшчы і Жамойць (т.зв. «Патоп»). Паражэнні Рэчы Паспалітай у войнах са Швецыяй і Расіяй падштурхнулі «сепаратысцкую» партыю ВКЛ на чале з Я.*Радзівілам* падпісаць *Кейданскую унію 1655*, паводле якой ВКЛ парывала дзярж. унію з Польшчай і заключала яе са Швецыяй. У студз. 1656 саюз са Швецыяй заключыў брандэнбургскі курфюрст і прускі герцаг Фрыдрых Вільгельм. Акупацыя Польшчы шведамі выклікала шырокае нар. супраціўленне і партызанскую барацьбу, да якой



Да арт. **Паўночная вайна 1655—60**. Медаль з партрэтам Яна II Казіміра, выбіты ў 1657 у гонар пераможнага пералому ў вайне. Медальер Я.Гёгн Старэйшы. Золата.

далучылася і шляхта. Аднавіла ваен. дзеянні польская армія. Каронныя гетманы С.Патоцкі і С.Лянцкаронскі адступілі ад прысягі шведскаму каралю і арганізавалі канфедэрацыю ў Тышоўцах, якая пасля вяртання Яна II Казіміра ператварылася ў генеральную канфедэрацыю. Нягледзячы на паражэнне польскіх войск пад камандаваннем С.Чарнецкага пад Голамбам 17—18.2.1656, хутка настаў перапом. Гал. сілы Карла Х Густава трапілі ў акружэнне ў сутоках рэк Сан і Вісла, а войска, што ішло яму на падмогу, 7.4.1656 разбіта пад Варкай. 1 ліп. вызвалена Варшава, паражэнне польскага войска пад сталіцай 28—30 ліп. не палепшы-



Да арт. **Паўночная вайна 1655—60**. Капітуляцыя пад Уйсцем 25.7.1655. Гравюра.



ла становішча шведаў. Пасля паражэння 8 кастр. арміі Фрыдрыха Вільгельма пад Просткамі шведскі кароль выступіў з праектам падзелу Рэчы Паспалітай паміж Швецыяй, Брандэнбургам і Трансільваніяй. Быў заключаны *Радноцкі дагавор 1656*, які прадугледжваў перадачу Швецыі Каралеўскіх Прусаў, Інфлянтаў, Курляндыі, Віленскага і Троцкага ваяв., Брандэнбургу — Вял. Польшчы, Ленчыцкага і Серадзьскага ваяв., трансільванскаму князю Дзёрдзю (Юрыю) II Ракацы — Малой Польшчы, Мазоўша, Валыні, Падляшша і Берасцейшчыны разам з тытулам польскага караля. Вынікам дагавора быў захоп 7.5.1657 шведска-трансільванскім войскам Берасця. Аднак спусташальныя рэйды Дзёрдзя II па паўд. і цэнтр. Польшчы ў 1-й пал. 1657 і дзеянні шведскіх войск не прывялі да рэалізацыі Радноцкага дагавора. Шведаў паступова выцяснялі з Польшчы. На бок Рэчы Паспалітай стаў імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Леапольд I (май 1657) і перайшоў Фрыдрых Вільгельм (Вяляўска-Быдгашчцкія трактаты вер.—ліст. 1657). 11.6.1657 вайну Швецыі аб'явіў дацкі кароль Фрэдэрык III, які, аднак, пацярпеў паражэнні: шведы занялі Ютландыю і высадзіліся на дацкія астравы. 8.3.1658 у Раскіле Данія і Швецыя падпісалі мір, паводле якога апошняя атрымала паўвостраў Сконе і інш. дацкія ўладанні ў Скандынавіі. У жн. 1658 Карл X Густаў парушыў мір і аблажыў Капенгаген. На дапамогу датчанам прыйшлі аўстрыйскія, брандэнбургскія, польскія (на чале з Чарнецкім) войскі і галандскі флот. Правал шведскага штурму Капенгагена ў лют. 1659 і канчатковае выгнанне шведаў з Польшчы вырашылі зыход вайны. Смерць Карла X Густава аблегчыла мірныя перагаворы, якія завяршыліся падпісаннем 3.5.1660 у Аліўскім кляштары пад Гданьскам міру паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай (гл. *Аліўскі мір 1660*) і 6.6.1660 у Капенгагене міру паміж Швецыяй і Даніяй. Швецыя захавала тэр. набыткі, прадугледжаныя Раскільскім дагаворам (за выключэннем некаторых пунктаў). Кароль польскі і вял. кн. літоўскі Ян II Казімір адмовіўся ад прэтэнзій на шведскі трон. Рэч Паспалітая прызнала шведскія заваяванні ў Інфлянтах на Пн ад Дзвіны; Курляндскае і Земгальскае княства і Інфлянцкае ваяв. засталіся ў Рэчы Паспалітай як сумеснае ўладанне Польшчы і ВКЛ.

*Літ.*: Szelągowski A. Sprawa północna w wiekach XVI i XVII. Cz. 3. Warszawa, 1905; Його ж. Walka o Bałtyk. 2 wyd. Lwów, 1921; Kubala L. Wojny duńskie i pokój oliwski, 1657—1660. Lwów, 1922; Konopczyński W. Polska a Szwecja: Od pokoju oliwskiego do upadku Rzeczypospolitej, 1666—1795. Warszawa, 1924; Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655—1660. T. 1—3; Mapy i szkice. Warszawa, 1957; Wójna polsko-szwedzka 1655—1660. Warszawa, 1973; Белы А. Невядомыя эпізоды «невядомае вайны», або ваенныя дзеяньні Швэцыі супраць ВКЛ у 1656—1657 гг. вачыма Эрыка Дальбэрга // Спадчына. 1999. № 3.

**Паўночная вайна 1700—21**, вайна кааліцыі еўрапейскіх дзяржаў у складзе Расіі, Даніі, Саксоніі (т.зв. «Паўночны саюз») з удзелам Рэчы Паспалітай (з 1704), Прусіі і Гановера (з 1715) супраць Швецыі за панаванне на Балтыйскім моры. На працягу 17 ст. Швецыя фактычна ўстанавіла свой кантроль над Балтыйскім рэгіёнам; яна захапіла ў Расіі землі, прылеглыя да Фінскага заліва (Інгрыю і частку Карэліі), а ў выніку войнаў з Рэччу Паспалітай (гл. *Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, *Паўночная вайна 1655—60*), Даніяй і германскімі краінамі авалодала Эстляндыяй, Ліфляндыяй (гл. *Інфлянты*) і значнымі тэрыторыямі ў Паўн. Германіі (Брэмен, Вердэн, Памеранія, в-аў Руген). У 1699 цар *Пётр I* заключыў саюз з Даніяй і курфюрстам Саксоніі *Аўгустам II* (з 1697 адначасова кароль польскі і вял. князь літоўскі) супраць Швецыі. У лют. 1700 саксонскія войскі (каля 10 тыс. чал.) увайшлі ў Ліфляндыю і аблажылі Рыгу. У сак. 1700 дацкія войскі (16 тыс. чал.) уведзены ў саюзнае Швецыі герцагства Гольштэйн. У чэрв. 1700 шведскі кароль *Карл XII* высадзіў дэсант каля Капенгагена і прымусіў Данію 18.8.1700 заключыць мір. 19(30).8.1700 Расія абвясціла вайну Швецыі. Рас. войскі (каля 35 тыс. чал.) пачалі аблогу Нарвы, але ў бітве 19(30).11.1700 пацярпелі паражэнне. Лічачы вынік вайны з Расіяй прадвырашаным на карысць Швецыі, Карл XII выступіў супраць Аўгуста II і 20.7.1701 разбіў саксонцаў каля Рыгі. У пач. 1702 шведскія войскі ўварваліся на тэр. Рэчы Паспалітай, у кастр. занялі Вільню і Гародню, у маі — Варшаву. Спробы Аўгуста II спыніць прасоўванне шведаў у глыб краіны скончыліся паражэннем саксонскіх войск у бітвах каля Клішава (1702) і Пултуска (1703). Пётр I скарыстаў перадышку, выкліканую адыходам асн. сіл Карла XII у Рэч Паспалітую, каб рэарганізаваць армію. У 1701—04 рас. войскі атрымалі некалькі перамог над шведамі ў Прыбалтыцы і выйшлі да Балтыйскага мора. У 1703 заснаваны Санкт-Пецярбург і марская крэпасць Кранштат.

З пачаткам вайны ў ВКЛ абвастрылася барацьба паміж Сапегамі, якія сталі на бок шведаў, і большасцю бел.-літ. шляхты, якая групавалася вакол Р.Агінскага і Вішнявецкіх. Вясной 1703 Генеральная канфедэрацыя ВКЛ абвясціла саюз з Расіяй. У ліп. 1704 Варшаўская канфедэрацыя, арганізаваная Карлам XII, выбрала на пасад Рэчы Паспалітай пазнанскага ваяводу *Станіслава* Ляшчынскага. У маі 1704 прыхільнікі Аўгуста II аб'ядналіся ў *Сандамірскую канфедэрацыю*, якая 19(30).8.1704 пад Нарвай заключыла саюз з Расіяй і абвясціла вайну Швецыі (гл. *Нарвенскі дагавор 1704*). Восенню 1704 на Беларусь увайшлі рас. войскі і пачалі канцэнтравацца каля Полацка, да лета 1705 іх колькасць дасягнула 60 тыс. чал. У ліп. 1705 яны рушылі на Вільню, частка войск пад камандаваннем Б.П.Шарамецева накіравана ў Курляндыю. У вер. 1705 гал. сілы рускіх (каля 35 тыс. чал.) занялі Гародню, дзе да іх далучылася некалькі палкоў саксонскай конніцы. Аб'яднаную групоўку ўзначаліў Аўгуст II. У студз. 1706 Карл XII пераправіўся цераз Нёман і блакіраваў гарнізон у Гародні, конніца А.Д.*Меншыкава* паспела адысці да Менска. Аўгуст II накіраваўся ў Саксонію за дапамогай, але ў лют. 1706 у бітве пры Фраўштаце асн. сілы саксонскай арміі былі разбіты. Рас. войскам удалося паспяхова выйсці з Гародні і праз Берасце і Ковель дайсці да Кіева. У лют.—маі 1706 шведы спалілі Карэлічы, Мір, разрабавалі Навагародак, Слонім, Клецк, Слуцк, Пінск, Кобрын, пасля аблог занялі Ляхавічы і Нясвіж (гл. *Нясвіжа абарона 1706*). Каля Клецка 19(30).4.1706 шведскія войскі разграмілі 5-тысячны рас. атрад С.П.Няплюева. Летам 1706 Карл XII нанёс удар непасрэдна па


ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА 1700–1721 гг.
АГУЛЬНЫ ХОД ВАЙНЫ
Маштаб 1:12 000 000
Аблога крэпасці, населенага пункта і дата ўзяцця
Крэпасць
Адступленне войск
Пераход войск
Праследаванне войск
Паўночная вайна 1700–1721гг.
Раёны сканцэнтравання войск:
расійскіх
шведскіх
саюзных Расіі
турэцкіх
30.8.1700 Абвяшчэнне Расіяй вайны Швецыі
Асноўныя напрамкі дзеяннаў войск:
1700–06
1707–09
1710–21
расійскіх
саюзных Расіі
шведскіх
Напрамкі дзеянняў флатоў:
расійскага
шведскага
24.9.1706 Заключэнне сепаратнага Альтранштацкага мірнага дагавора 1706 г. паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай
11.7.1709 Капітуляцыя шведскіх войск пад Пераволачнай
Мірныя перагаворы паміж Расіяй і Швецыяй у 1718–1719 гг. (Аландскі кангрэс)
10.9.1721 Заключэнне Ніштацкага мірнага дагавора паміж Расіяй і Швецыяй
Уладанні, страчаныя Швецыяй у 1715–1720гг.
Тэрыторыі, далучаныя да Расіі паводле Ніштацкага мірнага дагавора1721г.
Пруцкі паход 1711г.
Набегі татараў у пачатку 1711г.
Асноўныя напрамкі дзеянняў войск:
расійскіх
турэцкіх
Дзеянні турэцкага флоту
23.7.1711 Заключэнне Пруцкага мірнага дагавора паміж Расіяй і Асманскай імперыяй
Тэрыторыі, якія адышлі да Асманскай імперыі па ўмовах мірных дагавораў 1711–1713 гг.
Граніцы германскіх дзяржаў
Граніцы дзяржаў на 1700 г.
РАСІЙСКАЯ ДЗЯРЖАВА
МАСКВА
С.-ПЕЦЯРБУРГ
СТАКГОЛЬМ
КАПЕНГАГЕН
ВАРШАВА
БЕРЛІН
ХРЫСЦІЯНІЯ
ГЕЛЬСІНГФОРС
АРХАНГЕЛЬСК
ПАЛТАВА
КІЕЎ
БАХЧЫСАРАЙ
ДРЭЗДЭН
ПРАГА
РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ
ФІНЛЯНДЫЯ (Швед.)
КАРАЛЕЎСТВА ШВЕЦЫЯ
НАРВЕГІЯ (Дан.)
АСМАНСКАЯ ІМПЕРЫЯ
ЗАПАРОЖЖА
ЎКРАІНА



Саксоніі і прымусіў Аўгуста II у вер. 1706 заключыць Альтранштацкі мір. Аўгуст II адмовіўся ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць Станіслава Ляшчынскага. У 1707 рас. войскі зноў сканцэнтраваны ў Беларусі, у крас. пасля аблогі занялі Быхаў (гл. *Быхава абарона 1707*). У пач. 1708 Карл XII заняў Гародню і рушыў на Ліду, Смаргонь. Гал. сілы рас. арміі (каля 57 тыс. чал.) пад камандаваннем Шарамецева падышлі да Чашнікаў і Бешанковіч. З сак. да пачатку чэрв. 1708 шведская армія стаяла ў раёне Радашковіч, 7(18) чэрв. заняла Менск, 25 чэрв. пераправілася цераз Бярэзіну. Каля мяст. Галоўчын на Магілёўшчыне 14.7.1708 адбылася бітва, у якой рус. армія пацярпела паражэнне і адышла за Дняпро. Карл XII заняў Магілёў, а праз месяц рушыў далей на У. Аднак у бітвах каля в. Добрае 10.9.1708 і в. Раеўка 20.9.1708 на Мсціслаўшчыне авангард Карла XII панёс значныя страты; узніклі цяжкасці з забеспячэннем шведскай арміі харчам і фуражом. З мэтай далейшага паспяховага наступлення Карл XII вырашыў скарыстаць дапамогу, якую абяцаў укр. гетман І.Мазепа, і ў сярэдзіне вер. 1708 павярнуў на Украіну. На злучэнне з гал. сіламі Карла XII з Рыгі выйшаў 16-тысячны корпус А.Левенгаўпта. 9.10.1708 каля в. Лясная на Магілёўшчыне Левенгаўпт разбіты войскамі Пятра I (гл. *Ляснянская бітва 1708*), страціў абоз і прывёў да Карла XII толькі каля 7 тыс. чал. У канцы кастр. 1708 Мазепа з 2-тысячным атрадам перайшоў да шведаў, але Меншыкаву ўдалося знішчыць запасы зброі, боепрыпасаў і харчу ў г. Батурын, якія гетман падрыхтаваў для шведаў. 8.7.1709 каля Палтавы шведская армія была разгромлена, Карл XII і Мазепа ўцяклі ў Турцыю. Гэта перамога прывяла да рашаючага пералому ў ходзе вайны. Быў адноўлены саюз Расіі з Даніяй і Саксоніяй. Станіслаў Ляшчынскі ўцёк у Памеранію, у Варшаву вярнуўся Аўгуст II. Ваенныя дзеянні былі перанесены ў Прыбалтыку і Паўн. Германію. У 1710 рас. войскі цалкам занялі тэр. Ліфляндыі і Эстляндыі, авалодалі Рыгай, Парнавам і Рэвелем. Рас. флот атрымаў свабодны выхад з Фінскага заліва. Дацка-саксонскія войскі ўвайшлі ў Памеранію і пачалі аблогу Штральзунда. Па прычыне шматлікіх супярэчнасцей з Расіяй, асабліва па пытанні аб кантролі над Ліфляндыяй, Рэч Паспалітая выйшла з вайны. У канцы 1710 Карлу XII удалося ўцягнуць у вайну з Расіяй Турцыю. Рас.-турэцкая вайна 1710—13 адцягнула значныя сілы рас. арміі і часова прыпыніла актыўныя дзеянні супраць Швецыі. У 1713 рас. войскі занялі Фінляндыю, разам з саюзнікамі авалодалі амаль усёй Памераніяй. У выніку перамогі над шведскім флотам каля мыса Гангут (1714) рас. флот пачаў кантраляваць Балтыйскае мора. У 1715 у вайну супраць Швецыі ўступілі Прусія і Гановер. У маі 1718 Швецыя пачала перагаворы аб міры з Расіяй (т.зв. Аландскі кангрэс), якія працягваліся да гібелі Карла XII у ліст. 1718. Яго сястра Ульрыка Элеанора, заняўшы трон, пад уплывам Англіі спыніла перагаворы і аднавіла ваен. дзеянні з Расіяй. У той жа час Швецыя заключыла мір з Гановерам (1719), Прусіяй і Даніяй (1720), прызнаўшы іх правы на частку сваіх уладанняў у Паўн. Германіі. У 1719 было заключана пагадненне з Саксоніяй, паводле якога Швецыя адмовілася ад падтрымкі Станіслава Ляшчынскага і прызнала Аўгуста II каралём польскім і вял. князем літоўскім. У 1719—20 рас. дэсанты тройчы высаджваліся ў Швецыі, падыходзілі да Стакгольма, дашчэнту спусташалі прыбярэжныя гарады і вёскі; 7.8.1720 у Грэнгамскай бітве быў разгромлены шведскі флот. 30.8(10.9.).1721 падпісаны Ніштацкі мірны дагавор, якім закончылася П.в. Расія атрымала канчатковыя правы на Ліфляндыю, Эстляндыю, Інгрыю і частку Карэліі, абавязалася заплаціць Швецыі кампенсацыю ў памеры 2 млн. талераў. У 1729 Швецыя заключыла мір з Саксоніяй; адпаведны дагавор з Рэччу Паспалітай быў падпісаны ў 1733. Вынікі вайны для Беларусі былі трагічныя. Насельніцтва скарацілася з 2,2 млн. чал. да 1,5 млн. чал., загінуў кожны трэці жыхар; асабліва пацярпелі Мсціслаўскае, Віцебскае і Полацкае ваяв.

*Літ.*: Карцов А.П. Военно-исторический обзор Северной войны. СПб., 1851; Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 1—13. СПб.: М., 1887—1992; Мышлаевский А.З. Северная война 1708 г. от р. Улы и Березины за р. Днепр. СПб., 1901; Feldman J. Polska w dobie wielkiej wojny północnej, 1704—1709. Kraków, 1925; Кафенгауз Б.Б. Северная война и Ништадтский мир (1700—1721). М.; Л., 1944; Тарле Е.В. Северная война и шведское нашествие на Россию. М., 1958; Шутой В.Е. Северная война (1700—1721). М., 1970; История Северной войны, 1700—1721 гг. М., 1987.

***Уладзімір Пашкевіч.***

**паўстанне 1794** у Польшчы, Беларусі і Літве, нацыянальна-вызваленчае паўстанне за аднаўленне незалежнасці і суверэнітэту Рэчы Паспалітай у межах 1772, далейшае правядзенне рэформ *Чатырохгадовага сойма 1788—92*. Падрыхтавана тайнымі арганізацыямі, якія аб'ядноўвалі прагрэсіўныя колы шляхты і мяшчанства, эміграцкім цэнтрам у Саксоніі



Да арт. **Паўстанне 1794**. Прысяга Т.Касцюшкі на рынку ў Кракаве. Мастак Ф.Смуглевіч. 1797.



Да арт. **Паўстанне 1794**. Узнагародны паўстанцкі персцень з надпісам «Айчызна — свайму абаронцу».

(Дрэздэн, Лейпцыг) у складзе Г.*Калантая*, І., С. і Я. Патоцкіх, С.Малахоўскага, К.Н.Сапегі і інш. Кіраўніком (начальнікам) П. і галоўнакамандуючым нац. ўзброенымі сіламі прызначаны генерал-лейтэнант Т.*Касцюшка*. Падрыхтоўкай паўстання ў Варшаве кіраваў генерал-маёр І.Дзялынскі, у Вільні — палкоўнік Я.*Ясінскі*. Удзельнікі П. падзяляліся на 2 групоўкі: памяркоўных прыхільнікаў рэформ 1788—92 і радыкалаў («якабінцаў», гл. «*Віленскія якабінцы*»), якія імкнуліся падняць усенароднае паўстанне і правесці радыкальныя рэформы на ўзор Вял. французскай рэвалюцыі пад лозунгам «Свабода, роўнасць і братэрства». П. пачалося 12.3.1794, калі брыгадзір польск. войска А.Мадалінскі адмовіўся выконваць загад урада аб скарачэнні 1-й Велікапольскай брыгады і разам з войскам накіраваўся ў Кракаў, дзе быў прызначаны пачатак паўстання. 24 сак. ў Кракаве Касцюшка абвясціў Акт паўстання, паводле якога ён атрымліваў найвышэйшую ўладу і пасаду галоўнакамандуючага. Быў створаны рэвалюцыйны ўрад — *Найвышэйшая нацыянальная рада*, мясц. органы ўлады — парадкавыя камісіі ваяводстваў і паветаў, якія складаліся са шляхты і мяшчан. 4 крас. пад Рацлавіцамі (каля Кракава) паўстанцы разбілі 2 калоны рас. войска. У гэтай бітве ўдзельнічалі *касінеры* (сяляне, узброеныя косамі, замацаванымі тарчма на дрэўках). Паўстанне ахапіла Сандамірскае, Люблінскае, Мазавецкае ваяв., Холмскую зямлю. 17—18 крас. яно перамагло ў Варшаве. 7 мая Касцюшка выдаў *Паланецкі універсал*, паводле якога сялянам давалася асабістая свабода, калі яны разлічацца з панам і заплацяць дзярж. падаткі, змяншалася паншчына, за сялянамі прызнавалася права на надзелы зямлі, якія яны апрацоўвалі. Панскія двары павінны былі заключыць пагадненні з сялянамі аб наёмнай працы ў панскіх гаспадарках. Утвараліся пасады дазорцаў — дзярж. пасрэднікаў паміж панамі і сялянамі ў спрэчных пытаннях. Гэтыя меры прыцягнулі да паўстання шмат людзей.

У Беларусі і Літве П. пачалося з выступленняў часцей войска ВКЛ 16 крас. ў Шаўлях, у ноч на 23 крас. ў Вільні, дзе частка рас. войска была ўзята ў палон, частка адступіла. 24 крас. ў Вільні абвешчаны Акт паўстання, створаны рэв. ўрад Літвы і Беларусі — *Найвышэйшая літоўская рада* на чале з Ясінскім. У яе ўвайшлі ў большасці прадстаўнікі левага крыла шляхецка-буржуазнага блока і прадстаўнікі асобных тэрыторый ВКЛ. Гал. кіраўніком паўстання Найвышэйшая літ. рада прызнала Касцюшку. Яна выступіла з больш радыкальнымі лозунгамі, чым кіраўніцтва паўстання ў Польшчы, у адозве да насельніцтва заклікала жыхароў Беларусі і Літвы змагацца «з мэтай адваяваць свабоду і грамадзянскае раўнапраўе». Выдавалася рэв. «*Газэта Народова Віленьска*».

У пачатку П. мела поспех. Яно было падтрымана сялянамі, да якіх у праламацыях па-беларуску звяртаўся Ясінскі, абяцаючы адмену прыгоннага права. Гэта выклікала незадавальненне Касцюшкі, які лічыў, што радыкальная палітыка можа адштурхнуць ад паўстання шырокія колы шляхты. 28 крас. ў Гародні створана мясц. кіраванне — парадкавая камісія. У крас.—маі паўстанцы ўзялі ўладу ў Берасці, Ваўкавыску, Слоніме, Навагарodку, Ашмянах, Кобрыне, Лідзе, Браславе, у Жамойці. Рас. войскі вымушаны былі адступіць за мяжу 1793 — да Мінска, Нясвіжа, Пінска. Найвышэйшая літ. рада абвясціла Ясінскага галоўнакамандуючым узбр. сіламі ВКЛ, яму прысвоена званне генерал-лейтэнанта. У маі 1794 Ясінскі вёў баі, каб ліквідаваць пагрозу Вільні з усходу, 7 мая яго дывізія нанесла паражэнне рас. войску каля в. Паляны (непадалёку ад Ашмян). У гэтай бітве ўдзельнічала да 5 тыс. сялян з сякерамі, косамі, віламі, коп'ямі.

У гэты час абвастрыліся адносіны паміж кіраўнікамі паўстання. Пад націскам кансерватыўных колаў Касцюш-



Да арт. **Паўстанне 1794**. Павешанне здраднцаў на рынку ў Варшаве. Мастак Я.П.Норблін.



Да арт. **Паўстанне 1794**. Паўстанцкае войска на маршы. Мастак А.Арлоўскі 1800—02.



Да арт. **Паўстанне 1794**. Бітва пад Рацлавіцамі. Мастак А.Арлоўскі. 1798.

ка 4 чэрв. адхіліў ад кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве Ясінскага як радыкала. Замест яго галоўнакамандуючым прызначаны генерал-лейтэнант М.Вяльгорскі. Загадам Касцюшкі была распушчана Найвышэйшая літ. рада і 10 чэрв. створана больш памяркоўная *Цэнтральная дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага*. Найвышэйшая нац. рада ў Варшаве ўзяла пад свой кантроль кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі, чым скавала ініцыятыву мясц. кіраўнікоў. Палітыка ў адносінах да сялян стала больш асцярожнай і нерашучай. Гэта выкарысталі царскі ўрад і камандаванне рас. войска. Царскія генералы абяцалі сялянам-паўстанцам амністыю і перадачу ў кіраванне маёнткаў, секвестраваных у паўстанцаў-паноў. Шмат сялян паверыла абяцанням і адышло ад паўстання. 12—16 чэрв. М.К.*Агінскі* спрабаваў глыбокім рэйдам узняць паўстанне ў Мінскай губ. Яго атрад прайшоў праз Валожын і Івянец, але ў бітве пад Вішневам быў разбіты. У жн. Агінскі з новым атрадам рушыў праз Браслаўшчыну на Дынабург (Даўгаўпілс), каб адцягнуць ад Вільні рас. войскі. У 2-й пал. жніўня 3-тыс. атрад палкоўніка С.*Грабоўскага* правёў новы рэйд у Мінскую губ., прайшоў праз Івянец, Ракаў, Койданава, Пухавічы, Асіповічы, Бабруйск, але быў вымушаны адступіць на Глуск і Любань і 4 вер. ў выніку *Любанскага бою 1794* быў разбіты. Рас. камандаванне сканцэнтравала 3 карпусы (12 тыс. салдат) пад камандаваннем генерала Б.Кнорынга, І.Германа, П.Цыцыянава і зноў кінула іх на Вільню. 11 жн. горад быў акружаны і пасля бою 12 жн. капітуляваў. Дывізіі войска ВКЛ адступілі да Гародні, куды пераехалі паўстанцкія ўлады. У Польшчы на дапамогу рас. арміі выступіла пруская. 6 чэрв. пад Шчакацінамі (на Пн ад Кракава) корпус Касцюшкі пацярпеў паражэнне ад аб'яднанай рас.-прускай арміі. Пруская армія на чале з каралём Фрыдрыхам Вільгельмам II заняла Кракаў. Польскае войска адступіла да Варшавы. Пачалася аблога Варшавы прускімі войскамі, але 5 вер. яны адступілі ад сталіцы, бо пачалося паўстанне ў іх тыле. Аўстрыя ўвяла свае войскі ў Люблінскае ваяв. Для падаўлення паўстання былі накіраваны свежыя рас. сілы з Украіны — корпус генерал-аншэфа А.В.Суворава. 17 вер. паўстанцкі корпус генерал-маёра К.Серакоўскага ў выніку *Крупчыцкага бою 1794* з больш чым удвая пераважаючым корпусам Суворава адступіў. 19 вер. пад Цярэспалем войскі Суворава разбілі корпус Серакоўскага і атрад генерал-маёра К.*Князевіча*. 10 кастр. ў *Мацяёвіцкай бітве 1794* рас. корпус генерал-лейтэнанта І.Ферзена разбіў корпус Касцюшкі. Сам Касцюшка быў цяжка паранены, узяты ў палон разам з генераламі Серакоўскім, І.Камінскім, Князевічам і перавезены ў Пецярбург у Петрапаўлаўскую крэпасць. Найвышэйшым начальнікам П. быў прызначаны другі ўраджэнец Беларусі — польскі генерал-лейтэнант Т.*Ваўжэцкі*. Аб'яднаныя рас. карпусы пад камандаваннем Суворава 4 ліст. штурмам узялі Прагу (прадмесце Варшавы), 6 ліст. здалася Варшава. Рэшткі паўстанцкіх войск на чале з Ваўжэцкім адступілі на Пд, дзе 16 ліст. былі рассеяны рас. войскамі. П. было падаўлена. Яго паражэнне прывяло да *трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай*. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 31, 32.



Да арт. **Паўстанне 1794**. Бітва за пераправу цераз раку. Мастак А.Арлоўскі. 1801.

*Літ.*: Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji Kościuszkowskiej. Wiedeń, 1909; Akty powstania Kościuszki. T. 1—3. Kraków; Wrocław, 1918—55; Próchnik A. Demokracja Kościuszkowska. Warszawa, 1947;

Łukaszewicz W. Targowica i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa, 1953; Пичета В.И. К истории восстания Костюшко 1794 г. // Уч. зап. Ин-та славяноведения АН СССР. 1953. Т. 7; Kieniewicz S., Zahorski A., Zajewski W. Trzy powstania narodowe: Kościuszkowskie, listopadowe, styczniowe. Warszawa, 1992; Грыцкевіч А.П. Паўстанне 1794 г.: перадумовы, ход і вынікі // Бел. гіст. часопіс. 1994. № 1; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994; Макарова Г.В. Новые материалы о пребывании участников движения Т.Костюшко в России // Славяноведение. 1994. № 3.

***Анатоль Грыцкевіч.***



Да арт. **Паўстанне 1794**. Узяцце Прагі. Мастак А.Арлоўскі. 1797.

**паўталер**, буйная высокай пробы сярэбраная манета еўрапейскіх краін 16—18 ст. Лігатурная маса 14—15 г, проба 875—930 праміле, дыяметр 32—38 мм, таўшчыня 1,5—2,0 мм. Выпуск П. у ВКЛ у 1564—65 (т.зв. чвэрцькопкі) не знаходзіць дакументальнага пацвярджання, іх стылістыка не адпавядае эпосе, маюць масу 14,5 г, проба ніжэйшая за звычайную (720 праміле), па колькасці серабра адпавядае 15 грошам ардынацыі 1566, альбо 11,5 грошам ардынацый 1545/47, 1558/59, 1562, серабра ў манеце было 3/4 ад абвешчанага курса; у скарбах не зафіксаваны, значная частка ўжо ў канцы 19 ст. была аднесена да бясспрэчных падробак вядомага фальсіфікатара Майнерта. Іспанскія П. («залатыя філіпкі») з контрмаркамі Жыгімонта II Аўгуста 1564 мелі прымусовы курс у 30 грошаў польскіх ці 24 грошы літоўскія пры колькасці серабра ў 4/7 ад абвешчанага курса. Першыя верагодныя П. Рэчы Паспалітай з'явіліся ў 1583 з курсам 17,5 гроша польскіх, гданьскі асадны П. — у 1577. У канцы 16 ст. курс айчынных і замежных П. — 20 грошаў, у сярэдзіне 17 ст. — 45 грошаў, у канцы 17 ст. — 120 грошаў медную манетаю. Пасля рэформы 1766 палова талера (чатырохзалатовік) 1767—92 прыраўноўваўся да 16 сярэбраных ці 120 медных грошаў.



**Паўталер** Станіслава Аўгуста Панятоўскага. 1788.

*Літ.*: Hutten-Czapski E. Catalogue de la collection des medailles et monniaes polonaises. Vol. 1—5. Petersbourg ; Paris; Cracovie, 1871—1916; Gumowski M. Monety polskie. Warszawa, 1924; Mikołajczyk A. Obieg pieniężny w Polsce środkowej w wiekach od XVI do XVIII. Łódź, 1980; Сінчук І. Караліны, луідоры і... філіпок // Спадчына, 1994. № 6.

***Іван Сінчук.***

**паўтарак**, масавая нізкапробная сярэбраная манета ў 1,5 гроша. Сінанімічная назва *чэх*, адпавядала драйпёлькеру нямецкіх княстваў, пераймае імперскі апфельгрошэн («грош з яблы-



**Паўтаракі**: 1 — Жыгімонт III (1619); 2 — Ян II Казімір (1652).



Да арт. **Паўстанне 1794**. Узяцце Варшавы. Мастак А.Арлоўскі.

кам»). Першыя П. Рэчы Паспалітай з'явіліся ў 1614, біліся да 1627. Лігатурная маса 1,20—1,58 г, проба 375—469 праміле, дыяметр 19—20 мм, таўшчыня 0,7 мм. П. мелі характэрнае аблічча: на аверсе геральдычны шчыт з лічбавым пазначэннем наміналу пад ім (лічба 3 [імперскія крэйцары]), на рэверсе амаль на ўсё поле дзяржава з вял. крыжам і нязменнымі літарамі 24 у яблыку, якія не мелі сэнсу і былі механічна запазычанымі элементамі тыпу. Ім падобныя былі П. Прусіі 1621—33 і Эльблёнга пад уладаю Швецыі 1628—35. Пазнейшыя П. Рэчы Паспалітай караля Яна II Казіміра (1648—68) мелі лігатурную масу 1,09 г, пробу 281—375 праміле і стандартныя памеры. Тып захаваўся, але ў яблыку з'явілася актуальная характарыстыка 60 (П. у талеры). На тэр. ВКЛ да 1650 скарбы з П. складаюць 2/5, пасля 1650 — 1/5 ад усіх скарбаў гэтых часоў. У абарачэнні заставаліся да сярэдзіны 18 ст. Курс П. ў Маскоўскай дзяржаве адпавядаў сярэбранай драцяной капейцы, але існаваў лаж на карысць капейкі. П. Рэчы Паспалітай 1753—56 змянілі тып, на іх з'явілася назва номінала «PULTORAK», яны мелі стандартныя лігатурную масу і памеры, але проба была 203 праміле.

*Літ.*: Gumowski M. Monety polskie. Warszawa, 1924.

***Іван Сінчук.***

**Пахалавіцкі** (Пахаловіч) Станіслаў, мастак і картограф 2-й пал. 16 ст. Жыццё і дзейнасць звязаны з Беларуссю і Польшчай. Служыў сакратаром у магнатаў, у 1563—66 пры двары жонкі вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, потым у скарбовай і кароннай канцылярыях. Вясной 1572 удзельнічаў у ваеннай выправе на Малдову, у 1579—81 — у паходах Стафана Баторыя на Полацк, Вял. Лукі і Пскоў. Вызначыўся пры штурме Пскова, за што быў набілітаваны. Выконваў абавязкі картографа. Склаў карту «Вопіс Полацкага княства...», план аблогі Полацка войскамі Стафана Баторыя (абодва награвіраваны ў 1580 у Рыме Т.Трэтэрам), выканаў малюнак штурму Полацка 29.8.1579 (копія зберагаецца ў Дзярж. архіве ў г. Дрэздэн, Германія). Відаць, разам з інжынерам П.Фракусам працаваў над аксанаметрычнымі выявамі 6 рас. замкаў на Полаччыне: Казьяны, Красны, Сітна, Сокал, Суша і Тураўля. Творы П. — каштоўныя матэрыял для рэканструкцыі фартыфікацыі і забудовы Полацка 2-й пал. 16 ст., крыніца для вывучэння ходу ваенных падзей. Карта Полаччыны (маштаб 1:700 000) не вельмі дасканалая, але адыграла значную ролю ў фарміраванні картаграфічнага вобраза Беларусі. Яе выкарысталі картографы М.Струбіч (1579, 1589), Г.Меркатар (1595), Т.*Макоўскі* (1613). Творы П. дапамаглі Р.*Гейдэнштэйну* ў працы над «Запіскамі пра Маскоўскую вайну» (1584).

*Літ.*: Alexandrowicz S. Źródła kartograficzne do wyprawy połockiej Stefana Batorego roku 1579 // Od armii komputowej do narodowej (XVI—XX w.). Toruń, 1998.



С.**Пахалавіцкі**. Штурм Полацка 29.8.1579. Малюнак.

**«Пахвала Вітаўту»** («Похвала о великом князи Витовте», «Сказание о великом князи Витовте»), помнік беларускай літаратуры 15 ст., адзін з першых твораў беларускай свецкай панегірычнай прозы. Напісана ў Смаленску невядомым аўтарам у асяроддзі мясц. духавенства. Вядома ў 4 рэдакцыях: 1-я (1428) змешчана ў кнізе слоў Ісака Сірына, якая перапісана ў Смаленску; 2-я (летапісная, каля 1430) захавалася ў асобных спісах *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*; 3-я (новая, 1-я пал. 16 ст.) зберaглася ў спісах кароткай (гл. *Летапіс Красінскага*) і пашыранай (гл. *Альшэўскі летапіс*) рэдакцыях 2-га бел.-літ. летапіснага зводу — *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*; 4-я (рус. скарочаная, 16 ст.) змешчана ў розных гіст. зборніках, што бытавалі ў Расіі ў 16—18 ст. «П.В.» 1428 — прыватны дзелавы запіс-пасляслоўе да кнігі, зроблены прыхільнікам вял. кн. Вітаўта; летапісная — асобны твор панегірычнага жанру, напісаны на аснове папярэдняй як своеасаблівае ідэйна-мастацкае завяршэнне 1-га бел.-літоўскага летапіснага зводу; трэцяя — аб'яднаны скарочаны тэкст летапіснай «П.В.» з уступнай часткай (апавяданне пра каранацыйны з'езд Вітаўта) *Смаленскай хронікі*. У творы ўслаўляецца Вітаўт як мудры і ўсемагутны валадар, гаспадар ВКЛ, які карыстаецца высокім міжнар. аўтарытэтам. У «П.В.», створанай у час найбольшай паліт. магутнасці князя, ідэалагічна абгрунтоўваецца яго аб'ядноўчая палітыка на ўсх.-слав. землях, праводзіцца погляд на ВКЛ як на літоўска-слав.



дзяржаву, якая прызнаецца адным з гал. цэнтраў аб'яднання ўсіх усх. славян. Напісана на падставе сапраўдных гіст. фактаў урачыста-ўзнёслым стылем з выкарыстаннем стараж.-рус. літаратурных традыцый, кніжных выразаў і зваротаў, але без рытарычнай шматслоўнасці, проста, канкрэтна і змястоўна.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**пахвалка**, у ВКЛ выказаная публічна пагроза, намер зрабіць замах на чыё-небудзь жыццё, здароўе ці маёмасць. Бок, у адрас якога была выказана П., мог звярнуцца да вял. князя за атрыманнем ахоўнай граматы — заручнага ліста. Паводле Статута ВКЛ 1588 пакрыўджаны павінен быў неадкладна заявіць аб П. ў суд і патрабаваць прыняць меры да пагражальніка. У гэтым выпадку суд рабіў апошняму папярэджанне аб адказнасці і перадаваў яго «для лепшое безпечности покою посполитого» на парукі «людем добрым шляхте» па месцы жыхарства. Таго, хто адмаўляўся ад парукі, трымалі ў зняволенні, пакуль ён не даваў асабістага паручыцельства. Статут вызначаў прававыя вынікі П. і адказнасць за яе.

*Генадзь Маслыка.*

**Пахілевіч** Дзмітрый Леанідавіч [10(22).9.1897, в. Вадатыі Радамышльскага пав. Кіеўскай губ., цяпер Жытомірская вобл., Украіна—29.5.1974], расійскі і ўкраінскі гісторык. Д-р гіст. навук (1951), праф. (1953). Заслужаны дзеяч навукі УССР (1974), ганаровы д-р Люблінскага ун-та (1970). Скончыў Кіеўскі ін-т нар. асветы (1924). У 1921—45 працаваў у ВНУ УССР і РСФСР. З 1946 заг. кафедры Львоўскага ун-та. Даследаваў аграрныя адносіны і гісторыю сялянства Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы 16—18 ст. Распрацаваў перыядызацыю аграрнай гісторыі Беларусі і Літвы 16—18 ст. Адзін з аўтараў «Гісторыі Польшчы» («История Польши», т. 1, 2-е выд., Масква, 1956), «Нарысаў гісторыі СССР» («Очерки истории СССР», Масква, 1957), «Гісторыі паўднёвых і заходніх славян» («История южных и западных славян», Масква, 1966), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, Мінск, 1972).

*Тв.*: Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XVI—XVII вв. // Материалы по истории земледелия СССР. М., 1952. Сб. 1; Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVII—XVIII вв. Львов, 1957; Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

**паходы Нямецкага ордэна**. Праводзіліся ў канцы 13—пач. 15 ст. *Нямецкім ордэнам* для падпарадкавання зямель ВКЛ і з рабаўнічымі мэтамі. Упершыню прэтэнзіі ордэна на землі ВКЛ выказаны ў 1245, калі на просьбу вял. магістра ордэна Генрыха фон Гогенлоэ імператар Фрыдрых II выдаў прывілей, якім даваў магістру і ордэну правы на землі, што ён здабудзе ў Куроніі, Літве і Земгаліі. Падставай для паходаў на ВКЛ быў язычніцкі стан уласна літоўскага насельніцтва, якое, згодна з устанаўленнямі крыжакоў, падлягала хрышчэнню. Прэтэнзіі ордэна на ВКЛ падмацоўваліся і граматай (фальшывай?) кн. Міндоўга, якой ён завяшчаў сваю дзяржаву Нямецкаму ордэну ў тым выпадку, калі застанецца без нашчадкаў. Войны Нямецкага ордэна супраць ВКЛ пачаліся пасля падпарадкавання імі прусаў у 1283. Да 1309 гал. задачай ордэна было ўнутранае ўмацаванне, развіццё нямецкай каланізацыі ў Прусіі, таму далейшая агрэсія супраць суседніх зямель праводзілася адносна невял. сіламі. Гал. аб'ектам нападаў крыжакоў была Жамойць, дзе апорнымі іх базамі сталі збудаваныя на Нёмане і Балтыйскім узбярэжжы замкі Клайпеда, Рагніт, Скірстымонія і інш. Паходы розных маштабаў арганізоўвалі ордэнскія ўлады ўсіх узроўняў. Баявыя дзеянні цягнуліся бесперапынна, дробныя наезды невял. атрадаў рыцараў і служак, засады перамяжоўваліся больш буйнымі паходамі. Крыжацкія атрады налічвалі ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх тысяч воінаў, паходы цягнуліся ад некалькіх дзён да некалькіх тыдняў. Іх мэтай было здабыць адно або некалькі ўмацаванняў, разрабаваць наваколле, узяць палон. У адказ войскі ВКЛ учынялі напады на крыжацкія замкі і ўладанні. Вял. значэнне абодва бакі надавалі фактару нечаканасці і сакрэтнасці пры арганізацыі паходаў. У 1290—94 штогод адбываліся найменей 2 крыжацкія выправы. Час ад часу рабіліся напады на Гародню, якую літвіны выкарыстоўвалі як базу для нападаў на Прусію і Польшчу. Першы паход на Гародню адбыўся ў 1284, потым у 1295, 1296 (двойчы), 1305, 1306 (двойчы). У Гародні і Слоніме князі ВКЛ пасялілі прусаў-выгнанцаў, якія не жадалі прызнаваць уладу немцаў. Прыгранічныя напады рыцараў на ВКЛ адбываліся і ў часы іх узброенай барацьбы з Польшчай у 1309—43. У асноўным яны былі накіраваны на Жамойць, а таксама на Гародню (тройчы у 1311, 1328), Навагародак (1314). Звычайна не было года, каб не адбыўся крыжацкі напад. Паходы войска ВКЛ у адказ рабіліся рэдка. Буйнейшым з іх была сумесная выправа з польскімі войскамі на Брандэнбург у 1326, якую ўзначальваў *Давыд*. Прывілеем 1337 імператар Людовік IV Баварскі перадаў вял. магістру Нямецкага ордэна і яго пераемнікам часткі зямель ВКЛ — Жамойць, Куронію і Русь. Пасля замірэння ордэна з Польшчай у 1343 агрэсіўнасць крыжакоў у дачыненні да ВКЛ значна вырасла, павялічыліся маштабы іх паходаў, у якіх удзельнічала шмат зах.- і цэнтральнаеўрапейскіх рыцараў. Гал. аб'ектам нападаў заставалася Жамойць. Некалькі разоў крыжакі штурмавалі Вільню, Трокі, рабілі рэйды ў Верхняе Панямонне (да Дзяляціч), нападалі на Беліцу (1377), Ліду (1384), Берасце (1379), Камянец (1373, 1375, 1379). Вял. князі літоўскія Альгерд, Кейстут, Ягайла не заўсёды маглі аказаць значнае супраціўленне ордэну з-за занятасці іх ваенных сіл на ўсх. і паўд. рубяжах краіны. Вял. бітва адбылася 2.2.1348 на р. Стрэва, у якой удзельнічалі атрады з Полацка, Віцебска, Смаленска, Берасця і інш. гарадоў (гл. *Бітва на Стрэве 1348*). 29.10.1379 Кейстут і Ягайла заключылі перамір'е з ордэнам, які абавязаўся 10 гадоў не нападаць на рус. землі ВКЛ. Але пагадненне ў хуткім часе было сарвана, і буйныя крыжацкія напады адбыліся ў 1382 і 1383. Рэлігійныя падставы паходаў ордэна зніклі з часу хрышчэння насельніцтва Літвы пасля заключэння *Крэўскай уніі 1385* паміж ВКЛ і Польшчай. У 1386—89 адбыліся лічаныя крыжацкія паходы, аднак іх стала больш пасля ўцёкаў у ордэн кн. Вітаўта, які спадзяваўся з дапамогай крыжакоў захапіць велікакняжацкі трон (буйныя напады адбыліся ў 1390, 1391, 1392, 1394, штогод было па некалькі дробных). Паводле *Салінскага дагавора 1398* Вітаўт абяцаў перадаць ордэ-

ну Жамойць узамен за непадтрымку новага прэтэндэнта на велікакняжацкі трон Свідрыгайлы. Невыкананне ўмоў дагавора прывяло да новых вял. паходаў крыжакоў, якія дзейнічалі на карысць Свідрыгайлы (у 1402 да Салечнікаў, у 1403 да Ашмян). Рымскі папа Баніфацый IX булай ад 9.9.1403 забараніў *крыжовыя паходы* супраць ВКЛ. Канец паходам Нямецкага ордэна на землі ВКЛ паклалі *Рацёнжскі дагавор 1404* і *Грунвальдская бітва 1410*, аднак яшчэ да *Мельнскага міру 1422* вяліся ваенныя дзеянні ордэна з Польшчай і ВКЛ на тэр. Прусіі.

*Літ.*: Lietuvių karas su kryžiuočiais. Vilnius, 1964; Łowmiański H. Agresja Zakonu Krzyżackiego na Litwę w wiekach XII—XV // Łowmiański H. Prusy—Litwa—Krzyżacy. Warszawa, 1989; Грыцкевіч А. Барацьба Вялікага княства Літоўскага і Рускага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы) з Тэўтонскім ордэнам у канцы XIV—першай палове XV ст. // Адраджэнне: Гіст. альманах. Мн., 1995. Вып. 1; Сагановіч Г. Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) // З глыбінь вякоў. Наш край. Мн., 1997. Вып. 2; Яго ж. «Русь» у вайне з Нямецкім ордэнам (канец XIII—пачатак XV ст.) // Бел. гіст. агляд. 2001. Сш. 1—2; Петр Дусбург. Хроника Пруссии: Пер. с лат. М., 1997; Prekop D. Wojna zakonu krzyżackiego z Litwą w latach 1283—1325. Toruń, 2004.

***Валерый Пазднякоў.***

**пахожыя людзі**, гл. *Людзі пахожыя*.

**пахолкі**, 1) у Рэчы Паспалітай панскія слугі, звычайна маладыя хлопцы. 2) Слугі-збраяносцы ў шляхецкім войску Рэчы Паспалітай, часта набіраліся з прыгонных сялян.

**Пацеі**, шляхецкі род герба «Вага». Родапачынальнік Ходзька Каранеўскі, сын якога Тышка за службу ў вял. кн. Казіміра [1440—92] атрымаў некалькі вёсак у Камянецкай воласці. Ад імя яго сына Пацея Тышкавіча пайшло родавае прозвішча. Валодалі маёнткамі ў Берасцейскім, Троцкім і інш. ваяводствах. Найб. вядомыя:

Леў Пацеевіч (Пацей; ?—1.4.1550), сын Пацея Тышкавіча. Велікакняжацкі дваранін, пісар гаспадарскі з 1543.

Адам Львовіч (Іпацій; 12.4.1541—18.7.1613), сын Льва Пацеевіча. Уніяцкі мітрапаліт, гл. *Пацей* І.

Пётр (?—да 1647), сын Адама Львовіча. Пісар земскі берасцейскі з 1643.



Да арт. **Пацеі**. Л.К.Пацей. Мастак Я.Купецкі. 1711—12.

Леанард Габрыэль (6.11.1632—1.2.1695), сын Пятра. Да 1662 служыў у войску ВКЛ. Ажаніўся з князёўнай Рэгінай Агінскай, што спрыяла яго кар'еры. Берасцейскі земскі пісар з 1662, падсудак земскі з 1672, суддзя земскі з 1676, ваявода віцебскі з 1686, стараста рагачоўскі, жыжмарскі і суражскі; пасол на соймы, дэпутат Трыбунала ВКЛ. Удзельнічаў у бітвах з туркамі на Украіне ў 1670-х г. Знаходзіўся ў апазіцыі да караля Яна III Сабескага.

Людвік Канстанцін (1664—3.1.1730), сын Леанарда Габрыэля. Служыў у войску ВКЛ, удзельнічаў у бітвах з туркамі і крымскімі татарамі ў Венгрыі, Малдове і на Украіне. Берасцейскі земскі пісар з 1687, падкаморы з 1689, пісар польны ВКЛ з 1697, стражнік вялікі ВКЛ з 1698, падскарбі вялікі ВКЛ з 1703, гетман польны ВКЛ у 1709, гетман вялікі ВКЛ з 1709, адначасова кашталян віленскі з 1709 і ваявода віленскі з 1722, стараста ваўкавыскі, воўпенскі, шарашоўскі. Быў пасылом на соймы, належаў да апазіцыі бел. і літ. шляхты супраць усеўладдзя Сапегаў у ВКЛ. Удзельнік канфедэрацыі войска ВКЛ супраць Сапегаў 1696. Адзін з ініцыятараў ураўнавання правоў бел. і літ. шляхты з польскай на сойме 1697. Камандаваў атрадам у бітве пад Алькенікамі 18.11.1700, дзе было разгромлена войска Сапегаў. Устанавіў кантакты з рас. дыпламатамі. У час *Паўночнай вайны 1700—21* ваяваў супраць шведаў. Пры падтрымцы Пятра І фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках уладу ў Беларусі і Літве. Адзін з арганізатараў *Віленскай канфедэрацыі 1716*. Падтрымліваў кантакты з Расіяй, быў у апазіцыі да Аўгуста II, але потым пагадзіўся з ім. У апошнія гады жыцця выступаў супраць спроб Аўгуста II узмацніць каралеўскую ўладу.

Казімір Аляксандр (14.5.1666—10.6.1728), брат Людвіка Канстанціна. Харужы троцкі з 1692, кашталян віцебскі з 1700, троцкі з 1703, ваявода віцебскі з 1705, стараста рагачоўскі, суражскі і жыжмарскі. Удзельнік канфедэрацыі войска ВКЛ 1696 супраць Сапегаў, бітвы пад Алькенікамі. У студз. 1701 на чале шляхецкага апалчэння разбіў 16 конных харугваў Сапегаў і атрады сялян, якія былі ўзброены Сапегамі. Выступаў за абсалютную ўладу Аўгуста II. Удзельнік *Сандамірскай канфедэрацыі*, прыхільнік Расіі ў барацьбе супраць шведскага караля Карла XII. У 1708 часова перайшоў на бок караля Станіслава Ляшчынскага, у 1709 зноў далучыўся да Аўгуста II.

Антоні (?—16.2.1749), сын Казіміра Аляксандра. Абозны вялікі ВКЛ з 1715, стражнік вялікі ВКЛ у 1729—48, стараста ваўкавыскі, суражскі, радамысльскі і жыжмарскі. Служыў у войску ВКЛ. У 1730-х г. удзельнічаў у ба-



Да арт. **Пацеі**. Людвік Пацей. Мастак Ф.Паўліковіч.

рацьбе магнатаў за спадчыну княгіні Л.К.Радзівіл і яе нашчадкаў («*Нойбургскія маёнткі*»). У 1733 на элекцыйным сойме галасаваў за кандыдатуру караля Станіслава Ляшчынскага. На чале 8-тысячнай арміі выступіў супраць Аўгуста III, ваяваў з рас. войскам, якое ўмацоўвала ўладу Аўгуста III у Літве, Беларусі і Польшчы. У 1735 эмігрыраваў, у 1736 вярнуўся і прызнаў Аўгуста III.

Аляксандр (?—сак. 1770), брат Антонія. Падчашы ВКЛ з 1724, кашталян віцебскі з 1739 і троцкі з 1740, ваявода троцкі з 1742; стараста рагачоўскі, алькеніцкі, ковенскі. Быў дэпутатам і маршалкам Трыбунала ВКЛ.

Людвік (каля 1726—студз. 1771), сын Аляксандра. Абозны вялікі ВКЛ з 1744, стражнік вялікі ВКЛ з 1748, стараста рагачоўскі і алькеніцкі. Пасол на сойме. Удзельнік канфедэрацыі ВКЛ 1767 з прыхільнікаў Кацярыны II, да якой ездзіў на чале дэлегацыі. У час *Барскай канфедэрацыі* займаў хісткую пазіцыю паміж канфедэратамі і каралём.

Леанард (каля 1730—14.7. 1774), брат Людвіка. Абозны вялікі ВКЛ з 1752, стражнік вялікі ВКЛ з 1771, стараста рагачоўскі і алькеніцкі. Пасол на соймы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) дзеля захавання сваіх маёнткаў у Полацкім ваяв. прысягнуў Кацярыне II (1773).

Аляксандр Міхал (1774—да 13.6.1846), сын Леанарда. Абозны вялікі ВКЛ з 1794. У час *паўстання 1794* ад'ютант Я.*Ясінскага*, удзельнічаў у бітвах. Яго маёнткі былі секвестраваны, але ў 1795 Кацярына II вярнула іх. 5.7.1812 Напалеон прызначыў яго чл. Вайсковага камітэта ВКЛ, пасля пакінуў пасаду. З 1815 у складзе камісіі, што разглядала справы па спадчыне Д.Радзівіла. Чл. Патрыятычнага таварыства, у 1826—27 зняволены.

Тэадор (1798—1852), сын Аляксандра Міхала, апошні з роду П. Удзельнік паўстання 1830—31, памёр у эміграцыі ў Парыжы.

*Літ.*: Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959; Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Warszawa, 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***



Іпацій **Пацей**.

**Пацей** Іпацій (свецкае Адам Львовіч; 12.4.1541, сядзіба Ражанка Камянецкага пав.—18.7.1613), царкоўны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісьменнік-палеміст. З правасл. роду *Пацеяў*. У дзяцінстве, як мяркуецца, быў пажам пры каралеўскім двары, потым — пры двары М.*Радзівіла* Чорнага, дзе атрымаў выхаванне і адукацыю, перайшоў у кальвінізм. Відаць, вучыўся ў Ягелонскім ун-це (Кракаў). З 1566 берасцейскі пісар земскі. У 1569 дэпутат ад берасцейскай шляхты на Люблінскім сойме. У 1573 (ці 1574) вярнуўся ў праваслаўе. З 1577 земскі суддзя. У 1586 уваходзіў у каптуровы суд. З 1588 берасцейскі кашталян і сенатар Рэчы Паспалітай. Пасля смерці жонкі (1592) прыняў манаства пад імем Іпацій (крас. 1593). З мая 1593 епіскап уладзімірска-берасцейскі. У 1595 разам з К.*Цярлецкім* узначальваў пасольства ў Рым да папы Клімента VIII з мэтаю аб'яднання ўсх. і зах. цэркваў. Адзін з ініцыятараў і арганізатараў *Берасцейскай уніі 1596*. У 1599—1613 уніяцкі мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Пераклаў на старабел. мову кнігі П.Скаргі «Сінод берасцейскі» і «Апісанне і абарона сабору рускага берасцейскага» і выдаў іх пад адной вокладкай (1597). У 1605 апублікаваў «эпістолію» 1475 мітрапаліта *Місаіла* папе Сіксту IV аб падтрымцы уніі з Рымам. Аўтар палемічных твораў на старабел. і польскай мовах у абарону уніі: «Унія...» (1595), «Справядлівае апісанне ўчынкаў і справы сінодавае» (1597), «Размова берасцяніна з братчыкам» (1604), «Уваскрослы Налівайка» (1607), «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва», «Гармонія...», «Рэляцыя» (усе 1608), шэрагу лістоў да кн. К.В.Астрожскага, якія з'явіліся прычынай палемікі П. з Клірыкам Астрожскім («Водпіс на ліст нейкага Клірыка Астрожскага безыменнага», 1599), вял. колькасці казанняў і гамілій. П. таксама прыпісваюць аўтарства «Антырызіса, або Апалогіі супраць Хрыстафора Філалета» (1599; польск. перавыд. 1600). Прапаведніцкія творы П. на старабел. мове былі сабраны і выдадзены ў 1674, у 1714 перавыдадзены на польскай мове ў Супраслі і ў 1768 у Пачаеве.

*Літ.*: Трипольский Н. Униатский митрополит Ипатий Потей и его проповедническая деятельность. Киев, 1878; Левицкий О. Ипатий Потей, киевский униатский митрополит // Памятники русской старины в западных губерниях. СПб., 1885. Вып. 8; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Лаўрык Ю. Іпаці Пацей // Спадчына. 1992. № 2; Яго ж. Асветніцкая дзейнасць Іпація Пацея // Пачатковая школа. 1992. № 7; Дмитриев М.В. Посольство Ипатия Потия и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595—96 гг. // Славяноведение. 1996. № 2; Кішка Л. Жыцьцяпіс Іпація Пацея / Пераклад з польскае мовы, заўвагі й камэнтары Ю.Лаўрыка // Спадчына. 1998. № 4.

***Юрась Лаўрык.***

**Пацеха** (Pociecha) Уладзіслаў Казімір Аўгуст (1.7.1893, г. Кракаў, Польшча—28.1.1958), польскі гісторык. Чл.-кар. Польск. АН (1950), праф. надзвычайны (1957). У 1911—15 вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. У 1921—26 і з 1928 працаваў у Ягелонскай б-цы ў Кракаве, арганізатар і дырэктар (1926—27) Курніцкай б-кі. Вывучаў паліт. гісторыю Польшчы і ВКЛ. У шматтомнай біяграфіі каралевы польскай і вял. княгіні літоўскай Боны падкрэсліваў яе заслугі ў развіцці культуры і грамадска-паліт. думкі. Выдаваў гіст. крыніцы часоў панавання Жыгімонта I, у т.л. тамы 14—16 «*Актаў Таміцкага*».

*Тв.*: Geneza hołdu pruskiego, 1467—1525. Gdynia, 1937; Polska wobec elekcji cesarza Karola V w r. 1519. Wrocław, 1947; Arcybiskup gnieźnieński Mikołaj Dzierzgowski, prymas Polski (ok. 1490—1559): Zarys biograficzny. Kraków, 1947; Czasy Zygmunta Starego // Roczniki historyczne. Warszawa, 1947. R. 16; Królowa Bona (1494—1557):

Czasy i ludzie Odrodzenia. T. 1—4. Poznań, 1949—58.

*Літ.*: Biuletyn Biblioteki Jagiellońskiej. 1958, № 1 (змешчана бібліяграфія прац П.); Barycz H. Władysław Pociecha (1893—1958) // Rocznik Biblioteczny. 1988. R. 2.

***Валерый Пазнякоў.***

**Пацы** (у 15—16 ст. Пацавічы), магнацкі род герба «Газдава». Паходзіць ад Паца Даўкшавіча, ад імя якога ўтварылася родавае прозвішча. У 15 ст. валодалі маёнткамі ў Лідскім, з 16 ст. — у Берасцейскім і Гарадзенскім пав., мяст. Магільна і Астравец, у 17 ст. набылі Чартарыйск, Відзы, Галоўчын, Княжыцы і інш. Належалі да найб. уплывовых магнацкіх родаў 17—18 ст. У 1660—сярэдзіне 1680-х г. групоўка П. фактычна кіравала ВКЛ. Род П. падзяліўся на некалькі галін, апошні прадстаўнік роду памёр у 1835. Найб. вядомыя:

Юрый Пацавіч (?—1505), сын Паца Даўкшавіча. Маршалак гаспадарскі і намеснік ковенскі з 1480, ваявода кіеўскі (каля 1483—92), намеснік навагародскі з 1492, полацкі ў 1496—1501. Валодаў маёнткамі ў Лідскім і Берасцейскім пав.

Мікалай Юр'евіч (?—1545 або 1546), сын Юрыя Пацавіча. Лоўчы ВКЛ у 1509—42, падкаморы ВКЛ у 1527—42, ваявода падляшскі з 1543. Меў шматлікія маёнткі, у якіх у 1528 было каля 7500 сял. двароў. Ад яго сыноў паходзяць галіны роду.

Дамінік (?—1579), сын Мікалая Юр'евіча. Падкаморы берасцейскі з 1568, кашталян смаленскі з 1571. Меў маёнткі ў Берасцейскім пав. (каля 1900 сял. двароў). Удзельнічаў у заключэнні Люблінскай уніі 1569. Кальвініст. Ад яго паходзіць берасцейская галіна роду.

Станіслаў (1525—88), сын Мікалая Юр'евіча. Падстолі ВКЛ з 1552, ваявода віцебскі з 1566, староста суражскі, веліжскі і трабскі. Удзельнічаў у баях з крымскмі татарамі і ў *Інфлянцкай вайне 1558—82*, абараняў Віцебск у 1568.

Мікалай (каля 1527—85), сын Мікалая Юр'евіча. Сакратар гаспадарскі, у 1557 ад вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста атрымаў прызначэнне на пасаду кіеўскага каталіцкага біскупа, але не быў зацверджаны рымскім папам. Кіраваў біскупствам да 1582. Прыхільнік уніі з Польшчай. Перайшоў у кальвінізм, але займаў біскупскае месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай. З 1583 кашталян смаленскі.



Да арт. **Пацы**. Стафан Пац.

Ян (1550—1610), сын Дамініка. Чашнік ВКЛ з 1581, цівун віленскі з 1589, ваявода менскі з 1600, староста камянецкі. На сойме 1587 прапаноўваў выбраць на трон Рэчы Паспалітай цара Фёдара Іванавіча. Кальвініст, з 1600 католік. Зводны брат па матчынай лініі І.*Пацея*. Прадаў Радзівілам мяст. Кунаса недалёка ад Нясвіжа, у 1603 купіў мяст. Чартарыйск на Валыні.

Канстанцін Уладзіслаў (?—1686), сын Аляксандра, унук Яна. Харужы надворны ВКЛ з 1658, староста васількаўскі. Служыў у войску, з 1657 камандаваў казацкай (легкаконнай шляхецкай) харугвай, палкоўнік войска ВКЛ. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* удзельнічаў у аблозе Вільні (1660), бітвах на р. Бася (1660), пад Кушлікамі (1661) і Шкловам (1664), а таксама ў вайне 1673 супраць Турцыі. Прыхільнік прафранцузскай партыі Крыштофа Зыгмунта П. і праекта выбараў караля пры жыцці яго папярэдніка. Атрымаў у спадчыну маёнткі князёў Галоўчынскіх, валодаў Княжыцамі, Сенькавам і Рафалавам у Аршанскім пав., Чартарыйскам на Валыні, Беразіном, Даневам, Домжарыцамі, Шытавам, Усачамі, Вілейкамі, Ветрынам.




Да арт. **Пацы**. Габелен з гербам М.К.Паца.

Крыштоф Канстанцін (?—1725), сын Мікалая Андрэя, унук Канстанціна Уладзіслава. Пісар вялікі ВКЛ з 1710, кашталян полацкі, з 1724 староста ковенскі, пінскі і дудскі.

Антоні Міхал (?—лют. 1774), сын Крыштофа Канстанціна. Пісар вялікі ВКЛ з 1750, пасол на соймы з 1740. Служыў у войску ВКЛ, палкоўнік, рэгіментар (камандзір) дывізіі з 1760. Прыхільнік вял. гетмана ВКЛ М.К.Радзівіла, у 1763 перайшоў на бок групоўкі кн. Чартарыйскіх, прыхільнік кандыдатуры Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які і быў выбраны каралём у 1764; у 1767 зноў перайшоў у лагер Радзівілаў. Валодаў мяст. Езна (Троцкі пав.), дзе збудаваў шыкоўны палац, маёнткамі Галоўчын, Княжыцы, Рафалаў у Аршанскім пав., Канюхі ў Ваўкавыскім пав.

Міхал (30.9.1754—29.1.1800), сын Антонія Міхала. Генерал-маёр войска ВКЛ, староста ковенскі і барцянскі.

Мікалай (?—1595), сын Дамініка. Падкаморы берасцейскі з 1579, меў маёнткі ў Берасцейскім пав., заснавальнік яшчэ адной галіны роду.

Стафан (1587—17.11.1640), сын Мікалая. Вучыўся ў Італіі, каралеўскі сакратар з 1611, пісар вялікі ВКЛ у 1615—30, рэферэндар свецкі ВКЛ у 1626—30, падскарбі надворны ВКЛ у 1630, падскарбі вялікі ВКЛ з 1630, падканцлер ВКЛ з 1635, староста берасцейскі, прэнскі, вількавішскі. Удзельнік *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*.

Крыштоф Зыгмунт (1621—10.1.1684), сын Стафана. Вучыўся ў

Кракаве, Падуі, Лейдэне. Служыў у французскай, іспанскай і галандскай арміях. Харужы вялікі ВКЛ з 1646, падканцлер ВКЛ з 1656, канцлер з 1658, староста ковенскі, пінскі, астрынскі, адміністратар Гарадзенскай і Аліцкай эканомій. У 1651 на чале ўласнай гусарскай харугвы ўдзельнічаў у вайне супраць казакоў на Украіне. У паліт. барацьбе супраць роду Радзівілаў узначальваў групоўку П. Прыхільнік міру з Расіяй і заключэння з ёю саюза супраць Турцыі, інспіраваў заключэнне *Андросаўскага перамір'я 1667* і потым саюзу з Расіяй. Прытрымліваўся французскай арыентацыі і праекта выбрання караля пры жыцці папярэдніка, але ў 1667 перайшоў да прааўстрыйскай групоўкі. На выбарах караля падтрымаў кандыдатуру Міхала Вішнявецкага (1669), выступіў супраць абрання Яна III Сабескага (1674). У канцы жыцця страціў паліт. уплыў.

Мікалай Стафан (1623—8.5.1684), брат Крыштофа Зыгмунта. Ваявода троцкі з 1651, кашталян віленскі з 1670, біскуп віленскі з 1671, староста крычаўскі, раканцішскі, лаварышскі. З 1660 разам з братам належаў да прыдворнай прафранцузскай групоўкі, але як прыхільнік шляхецкіх вольнасцей і захавання ранейшага паліт. парадку хутка адышоў ад яе. У ВКЛ дапамагаў брату ў кіраванні дзяржавай.

Самуэль (1590—8.1.1627), сын Мікалая. Ротмістр, потым палкоўнік, рэгіментар, харужы вялікі ВКЛ з 1623. Удзельнік войнаў Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29 і Расіяй 1609—18. Атрымаў у пажыццёвае карыстанне 9 вёсак у Бабруйскім старостве, у т.л. Парычы, ва ўласнасць — Любонічы каля Бабруйска і Гарошкаў у Рэчыцкім пав.

Павел (1530—95), сын Мікалая Юр'евіча. Кашталян віцебскі з 1566, ваявода мсціслаўскі з 1578, кашталян віленскі з 1593, староста вількамірскі, мсціслаўскі, дзісенскі, радамскі. Меў вял. маёнткі Дзісна, Казьяны і інш. ў Браслаўскім і Астравец у Ашмянскім пав.

Пётр (1570—19.7.1642), сын Паўла. Харужы надворны ВКЛ з 1613, падскарбі надворны ВКЛ з 1635, ваявода троцкі з 1640, староста мсціслаўскі, радамскі і даўгелішскі. Удзельнічаў у войнах Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, Расіяй 1609—18, Турцыяй 1621. Пасол на соймы. Валодаў мяст.


Да арт. **Пацы**. К.З.Пац.

Відзы ў Ашмянскім пав.

Міхал Казімір (1624—4.4.1682), сын Пятра. Чашнік ВКЛ у 1659, абозны вялікі ВКЛ з 1659, генеральны рэгіментар (камандуючы) войскам ВКЛ у 1659 і 1663, ваявода смаленскі і гетман польны ВКЛ з 1663, кашталян віленскі і гетман вялікі ВКЛ з 1667, ваявода віленскі з 1669, староста дынабургскі, геранёнскі, усвяцкі, мерацкі, адміністратар Магілёўскай эканоміі. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 удзельнічаў у 1660 у баях супраць войска кн. І.Хаванскага, 11.7. 1660 штурмам узяў Вільню, у снеж.


Да арт. **Пацы**. М.К.Пац. Партрэт 17 ст.

1660 атрымаў перамогу пад Шкловам. Належаў да прыхільнікаў караля Яна II Казіміра, падтрымліваў праект выбараў новага караля пры жыцці папярэдняга. Чл. дэлегацыі Рэчы Паспалітай пры падпісанні Андросаўскага перамір'я 1667. Разам з канцлерам Крыштофам Зыгмунтам П. узначальваў групоўку П., праціўнікаў Радзівілаў, арыентаваўся на Аўстрыю. Удзельнічаў у ваен. кампаніях супраць Турцыі.

Геранім Дамінік (?—1662), брат Міхала Казіміра. Меў маёнткі ў Ашмянскім пав. і на Жамойці. У 1661 узяты ў палон і вывезены ў Расію, памёр у дарозе пры вяртанні на радзіму.

Казімір Міхал (?—1719), сын Гераніма Дамініка. Пісар вялікі ВКЛ у 1683—1710, маршалак надворны ВКЛ у 1708—09. 5 гадоў быў на Мальце і ўдзельнічаў у бітвах з туркамі, з 1678 рыцар Мальтыйскага ордэна, пасля вяртання ўзначаліў камандорствы ордэна ў Познані (1685) і Сталавічах (1688). Пасол на соймы, з 1696 прыхільнік Сапегаў, крытыкаваў палітыку Аўгуста II на сойме 1701—02 (сарваў яго). У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1706—09 прыхільнік караля Станіслава Ляшчынскага, ад якога атрымаў пасаду маршалка. Пасля вяртання на трон Аўгуста II адышоў ад паліт. дзейнасці.

Юзаф (?—кастр. 1764), сын Яна Казіміра. Кашталян жамойцкі з 1748, староста хвейданскі, зёлаўскі і шырвінцкі.

Міхал Ян (1730—кастр. 1787), сын Юзафа. Набліжаны да К.С.Радзівіла Пане Каханку, генерал-маёр войска ВКЛ (1764), генерал-лейтэнант (1766 або 1767). Удзельнік *Радамскай канфедэрацыі*. Восенню 1768 арганізаваў у Навагародку Генеральную канфедэрацыю ВКЛ як частку *Барскай канфедэрацыі*, удзельнічаў у баях канфедэратаў з рас. і каралеўскімі войскамі. Пасля паражэння канфедэрацыі жыў за мяжой (Славакія, Сілезія), памёр у Страсбургу.

Пётр (?—1756), сын Яна Казіміра. Староста вілейскі і пінскі.

Юзаф (1736—13.3.1797), сын Пятра. Служыў у войску ВКЛ, генерал-маёр (1757), генерал-ад'ютант вял. булавы войска ВКЛ, староста вілейскі, пасол на соймы. Актам паўстання 24.4.1794 у Вільні прызначаны чл.

*Найвышэйшай літоўскай рады* і ўведзены ў склад вайсковай дэпутацыі. У ліп. 1794 выехаў на лячэнне ў Галіцыю. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай 1795 вярнуўся ў родавы маёнтак Ражанка ў Лідскім пав., запісаў у тастаменце ўсе свае багатыя маёнткі далёкаму сваяку Людвіку Міхалу П.

*Літ.*: Herbarz polski i imionopis zasłużonych w Polsce ludzi. T. 2. Lwów, 1859; Wolff J. Pacowie: Materjały historyczno-genealogiczne. Petersburg, 1885; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959; Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Warszawa, 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Пачобут-Адляніцкі** Марцін (30.10.1728, в. Саломенка Гарадзенскага пав.—20.2.1810), астраном, асветнік. З шляхецкай сям'і. У 1738—45 вучыўся ў Гарадзенскім езуіцкім калегіуме. З 1745 чл. Таварыства Ісуса, 2 гады праходзіў навіцыят у Вільні. Вучыўся на педагагічным курсе ў Слуцку (1747—48), вывучаў філасофію ў Полацку (1749—52), дзе таксама выкладаў у пачатковых класах калегіума. Пераведзены ў Вільню на пасаду выкладчыка ў класе сінтаксіса, П.-А. год слухаў лекцыі па матэматычных дысцыплінах Т.*Жаброўскага*. У 1754—56 вучыўся ў Празе, дзе працягваў паглыбленае азнаямленне з фізіка-матэматычнымі навукамі. З 1757 слухаў 4-гадовы курс тэалогіі ў Віленскай акадэміі. З 1760 святар, у 1761—64 наведаў шэраг абсерваторый Пайд. Еўропы. Кіраўнік Марсельскай абсерваторыі езуіт Э.Пезэн прызначыў П.-А. сваім асістэнтам і намеснікам. У т. З працы Г.Паўліяна «Мірны дагавор паміж Дэкартам і Ньютанам» (1763) апублікаваны астранамічныя назіранні П.-А. ў Авіньёне. Пасля вяртання з-за мяжы кіраўнік астранамічнай абсерваторыі і выкладчык матэматыкі Віленскай акадэміі. У рамках праграмы па стварэнні карты Рэчы Паспалітай была вызначана геаграфічная шырата Ашмян, Беластока, Берасця, Ваўкавыска, Відзаў, Вільні, Воўчына, Іказні, Ліды, Навагародка і інш. Значны грашовы запіс Э.Агінскай з роду Пузын дазволіў П.-А. ў 1768—69 наведаць абсерваторыі Англіі і Францыі. У 1771 абраны чл. Лонданскай АН, у 1778 — чл.-кар. Французскай АН. Прапанаваў увесці новае сузор'е — Каралеўскі Цялец Панятоўскага з 16 зорак, з якіх 9 сам адкрыў. Выпрацаваў і ажыццявіў праграму назіранняў Меркурыя. З 1780 рэктар Віленскай акадэміі (з 1781 Гал. школа ВКЛ). Асн. справай П.-А. ў 1780-я г. стала арганізацыя сістэмы адукацыі ў ВКЛ па праграмах Адукацыйнай камісіі. Вітаў прыняцце *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Паспяхова абараняў рэформы ў галіне асветы на *Гарадзенскім сойме 1793*. Падтрымаў *паўстанне 1794*, ахвяраваў значныя сродкі на патрэбы войска. Пасля 1795 аўтарытэт П.-А. дапамагаў яму на некаторы час захаваць без кардынальных змен становішча ў адукацыйных справах, але пагаршэнне адносін з рас. ўладамі прывяло ў 1799 да адстаўкі П.-А. з пасады рэктара. З 1807 паступова адышоў ад астранамічнай працы і перадаў абсерваторыю Я.Снядэцкаму. Апошнія 2 гады жыцця правёў у езуіцкім кляштары ў Дынабургу. Каласальная праца П.-А. па развіцці асветы адзначана медалём з яго партрэтам (1775), ордэнамі Св. Станіслава (1785) і Белага Арла (1793).


М.**Пачобут-Адляніцкі**. Мастак Ю.Аляшкевіч.

*Літ.*: Śniadecki A. Żywot uczony i publiczny Marcina Odlanickiego Poczobuta. Wilno, 1810; Гусев М. Столетнее существование Виленской астрономической обсерватории (1753—1853) // Памятная книжка Виленской губернии на 1853 г. Вильна, 1853. Ч. 2; Bałiński M. Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862; Матулайтите С.П. Возникновение и первые 5 десятилетий деятельности Вильнюсской астрономической обсерватории // Тр. АН Литовской ССР. Сер. А. 1969. Т. 2 (30); Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwe Litewskim. Wrocław etc., 1973; Piechnik L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 4. Rzym, 1990; Udias A. Searching the Heavens and the Earth: The history of jesuit observatories. Dordrecht; Boston; London, 2003; Matulaitytė S. Senoji Vilniaus universiteto astronomijos observatorija ir jos biblioteka. Vilnius, 2004.

***Павел Космач.***

**Пачобут-Адляніцкі** Ян Уладзіслаў (26.6.1640—23.5.1703), вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, мемуарыст. З шляхецкага роду, які з 15 ст. жыў на Гарадзеншчыне. У 1658 паступіў у казацкую харугву паспалітага рушэння ротмістра М.Шэмета, ваяваў у Троцкім пав. супраць войск Ю.Далгарукава і супраць шведаў у Жамойці, у 1659 — у Курляндыі. Удзельнік бітваў на р. Бася (8.10.1660), каля Дынабурга (5.3.1661), на р. Дзісна (жн.—ліст. 1661). Зімой 1663—64 удзельнічаў у няўдалай выправе караля Яна II Казіміра за Дняпро. У 1666, 1675, 1679, 1680 і 1698 выбіраўся дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Удзельнічаў у абранні каралёў Міхала Вішнявецкага (1669) і Яна III Сабескага (1674). У 1684 атрымаў пасаду стольніка ашмянскага. У 1698 на баку прыхільнікаў захавання шляхецкіх вольнасцей змагаўся супраць Сапегаў. Пакінуў успаміны і дзённік (з 1680) «Нататкі мае і дыярыуш маёй службы ваеннай», у якіх адлюстраваны падзеі 1640—84. Асн. ўвага ў іх звернута на ваен. падзеі 1650—60-х г., таму яго мемуары сталі першараднай гіст. крыніцай. Упершыню твор выдадзены Л.Патоцкім і Ю.Крашэўскім у 1877.

*Тв.*: Pamiętnik. Warszawa, 1987; Бел. пер. — Запіскі і дыярыуш Яна Уладзіслава Пачобута-Адланіцкага // Полымя. 1998. № 1—2; 2001. № 10.

*Літ.*: Sajkowski A. Nad staropolskimi pamiętnikami. Poznań, 1964.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пашакоўскі** Ян Антоні (14.2.1684, каля мяст. Шадаў, Упіцкі пав.—3.6.1757), педагог, гісторык, тэолаг. Д-р філасофіі (1718). Вучыўся ў Коўне, навіцыяце ў Вільні, у Нясвіжскім калегіуме (1702—03), Віленскай акадэміі. З 1700 езуіт, з 1713 святар. Выкладаў паэтыку і рыторыку ў Коўне (1714—15) і Крожах (1715—16), прэфект школы ў

Коўне (1717—18), выкладаў філасофію ў Вільні (1718—21), дырэктар курсаў і загадчык гаспадаркі Нясвіжскага калегіума, выхавальнік Г.Ф.*Радзівіла* (1722—35), рэктар Слуцкага (1735—39) і Нясвіжскага (1739—42) калегіумаў, духоўнік і пісар у Нясвіжы (1742—56), дзе пасля выкладаў французскую мову і ўсеагульную гісторыю (1756—57). У Нясвіжы напісаў шматлікія тэалагічныя, палемічныя, гіст. працы, чаму садзейнічала карыстанне багатымі бібліятэчнымі зборамі Радзівілаў. Гал. справай яго жыцця стала асветная дзейнасць па стварэнні і выданні календароў. За 1737—49 выдаў у Вільні 20 календароў, якімі паклаў пачатак віленскага перыядычнага друку. У адрозненне ад календарнай традыцыі П. выключыў са сваіх выданняў астралогію, прагностыку і інш. забабоны, а запоўніў іх звесткамі з гісторыі і культуры Беларусі і Літвы. Меў на мэце перш за ўсё заахвоціць моладзь да чытання гіст. прац, тым больш, што ў 1739 у езуіцкіх навучальных установах было ўведзена выкладанне гісторыі. П. лічаць першым папулярызатарам гіст. навукі ў ВКЛ. Ён выдаў працы па гісторыі Рэфармацыі: «Гісторыя лютэрская» («Historia luterska», Вільня, 1745), «Гісторыя кальвінская» («Historia kalwińska», Варшава, 1747), «Гісторыя пра пачатак адступніцтва англіканскай царквы» («Historia o początku odszczepieństwa Kościoła Anglikańskiego», Варшава, 1748) і інш. Склаў біяграфічны слоўнік езуітаў ВКЛ. Апошнія гады жыцця працаваў над гісторыяй царквы ў Рэчы Паспалітай, якая засталася незавершанай. Памёр у Нясвіжы.

*Літ.*: Б а ж э н а в а В. Ксёндз Ян Пашакоўскі — гісторык, тэолаг, пісьменнік // Наша вера. 2002. № 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пашаўшаўскі езуіцкі калегіум.** Існаваў у 1658—1773 у мяст. Пашаўшы ў Жамойці. Заснаваны у 1654 падскарбіем ВКЛ Станіславам Бейнартам, які перадаў езуітам некалькі вёсак. Фундацыя зацверджана соймам 1659. У 1654—55 двор Бейнарта ў Пашаўшах перабудаваны на драўляны касцёл і рэзідэнцыю езуітаў, аднак у 1656 яны згарэлі ад маланкі, пасля адноўлены. У 1666 касцёл зноў згарэў. Мураваны храм св. Станіслава будаваўся ў 1686—88, 1695—1708, 1738—66, дзейнічаў з сярэдзіны 18 ст. Ніжэйшая школа дзейнічала з 1655, пасля яе ўзровень павышаўся. Вучылася моладзь з Жамойці і Курляндыі. Пры калегіуме была музычная бурса.

**Пашкевіч** (Paszkiewicz) Генрык (10.3.1897, г. Лодзь, Польшча—8.12.1979), польскі гісторык. Чл.-кар. Польск. АН у Кракаве (1945), д-р габілітаваны (1927), праф. надзвычайны (1939). Вучыўся ў Варшаўскім ун-це, дзе з 1928 выкладаў гісторыю Усх. Еўропы перыяду сярэдневякоўя, адначасова ў 1934—39 выкладчык і кіраўнік кафедры сярэдневяковай гісторыі Вольнага польскага ун-та ў Варшаве. Удзельнік вайны 1939, да 1945 зняволены ў канцлагеры Мураў. У 1945—47 у Італіі, праводзіў даследаванні ў Ватыканскім архіве, з 1948 у эміграцыі ў Вялікабрытаніі. У 1948—69 узначальваў кафедру гісторыі сярэдневякоўя Польскага ун-та ў замежжы. Даследаваў гісторыю ВКЛ, палітыку Польшчы ў адносінах да Літвы, Беларусі, Украіны, Расіі перыяду феадалізму. Склаў на лацінскай мове «*Рэгесты крыніц па гісторыі Літвы...*» (1930).

*Тв.*: Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925 (2 wyd. Kraków, 2002); Jagiellonowie a Moskwa. T. Litwa a Moskwa w XIII i XIV w. Warszawa, 1933; O genezie i wartości Krewa. Warszawa, 1938; Polska a Moskwa w ciągu dziejów. Londyn, 1949; The Origin of Russia. London, 1954; The Making of the Russian Nation. London, 1963; The Rise of the Moscow's Power. New York, 1983; Początki Rusi. Kraków, 1996; Wzrost potęgi Moskwy. Kraków, 2000.

**Пашкевіч** Ян Казімір (апошняя чвэрць 16 ст.— да 12.2.1636), беларускі паэт. Відаць, паходзіў з каталіцкай шляхецкай сям'і ў Ашмянскім пав. Карыстаўся гербам «Радван». Месца адукацыі не вядома. Кар'еру пачаў у канцылярыі ВКЛ, дзе працаваў слугой у 1620-я г. Магчыма, належаў да кола канцлера Л.Сапегі, паколькі ніжэйшы персанал фарміраваўся з ліку асабіста залежных ад канцлера асоб. Ад Жыгімонта III і Уладзіслава IV Вазаў атрымаў зямельныя наданні ў розных паветах ВКЛ. 18.8.1631 яму дадзены урад двараніна скарба ВКЛ, дзе ён працаваў пад кіраўніцтвам С.Паца, падскарбія ВКЛ у 1630—35. У якасці скарбовага двараніна інвентарызаваў Ваўкавыскае староства, Поразава і Новы Двор. Аўтар адзінага верша «Полска квитнет лациною», які быў запісаны 22.8. 1621 на асобніке Статута ВКЛ 1529 (Слуцкі спіс). Твор П. — выдатны прыклад грамадзянскага патрыятызму жыхароў ВКЛ, сведчыць пра высокі статус і павагу да старабел. мовы ў 1-й пал. 17 ст. Разам з тым, верш напісаны пад уплывам састарэлых і не ўласцівых для 17 ст. інтанацыйна-сказавых традыцый.

*Літ.*: Г р ы н ч ы к М.М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973; Г а л у б о в і ч В. Ян Казімір Пашкевіч: паэт на мяжы культур // Скарыназнаўства, кнігазнаўства, літаратуразнаўства. Мн., 2001.

***Віталь Галубовіч.***

**Пашута** (Пашуто) Уладзімір Цярэнцьевіч (19.4.1918, Петраград—10.6.1983), расійскі гісторык. Чл.-кар. АН СССР (1976), д-р гіст. навук (1960), праф. (1971). Скончыў Ленінградскі ун-т (1941). З 1948 у Ін-це гісторыі АН СССР, з 1969 заг. сектара. Адначасова ў 1949—53 заг. аддзела час. «Вопросы истории», з 1968 выкладаў у Маскоўскім абласным педагагічным ін-це, Маскоўскім гіст.-архіўным ін-це. Даследаваў гісторыю эпохі феадалізму Расіі, Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, займаўся крыніцазнаўствам і гістарыяграфіяй. Паводле П., у 1-й пал. 13 ст. на тэр. сучаснай Літвы ўтварылася раннефеад. балцкая дзяржава, якая ў сваім развіцці прайшла 3 этапы: канфедэрацыя зямель, потым іх саюз і раннефеад. манархія. Захоп літ. феадаламі Беларусі лічыў пачаткам ператварэння невял. Літ. дзяржавы ў ВКЛ. Пісаў пра сінтэз грамадскага ладу Літвы са значна больш развітымі феад. ін-тамі Беларусі, але не прызнаваў за бел. землямі актыўнай ролі ў стварэнні ВКЛ. Падтрымліваў тэзіс пра шматвяковае імкненне беларусаў да ўз'яднання з Расіяй.

*Тв.*: Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Александр Невский и борьба русского народа за независимость. М., 1956; Образование Литовского государства. М., 1959; Древнерусское государство и его международное значение. М., 1965 (у сааўт.); Внешняя политика Древней Руси. М., 1968; Реваншисты—псевдоисторики России. М., 1971; Древнерусское наследие и исторические судьбы славянства. М., 1982 (з Б.М.Флорам, Г.Л.Харашкевіч); Русские историки-эмигранты в Европе. М., 1992.



*Літ.*: Список печатных трудов В.Т.Пашуто // Археографический ежегодник за 1983 год. М., 1985; Восточная Европа в исторической ретроспективе: К 80-летию В.Т.Пашуто. М., 1999.

**Пашэнда** (Paszenda) Ежы (н. 28.9.1932, г. Тыхі, Польшча), польскі гісторык мастацтва. У 1950—55 вучыўся у Люблінскім каталіцкім ун-це, у 1957—60 вывучаў філасофію ў Кракаве і ў 1961—64 тэалогію ў Варшаве. З 1955 чл. ордэна езуітаў. З 1967 працуе у Б-цы пісьменнікаў у Кракаве, адначасова ў 1971—89 рэдактар «Выдавецтва апостальства малітвы» ў Кракаве. Даследуе архітэктуру і манументальнае мастацтва езуітаў на землях Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы. Аўтар публікацый па гісторыі помнікаў архітэктуры Гродна, Нясвіжа, Мінска і інш. гарадоў Беларусі.

*Тв.*: Słownik jezuitów artystów. Kraków, 1972 (з Е.Папляткам); Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. T. 1—2. Kraków, 1999—2000; Święta Lipka. Wrocław; Kraków, 2001.

**паэтыка** (ад грэч. poiesis творчасць, паэзія), паэтычнае, мастацкае маўленне, тэорыя мастацкага маўлення і вершаванага выкладу, а таксама падручнік па ёй. Назву «П.» (ці «Пра паэтычнае мастацтва») насіла праца Арыстоцеля (4 ст. да н.э.), у якой былі вызначаны асн. спосабы мастацкага аздаблення мовы. Тэорыя П. атрымала далейшае развіццё ў Старaж. Рыме, у працы Гарацыя (1 ст. да н.э.) «Пасланне да Пізонаў» (ці «Пра паэтычнае мастацтва») і працах Цыцэрона (1 ст. да н.э.), Квінтыліяна (1 ст. н.э.) і інш. Большасць паняццяў П. (мілагучнасць, або эўфанія, рытміка, рыфмаванне, фігуры, тропы) запазычана са сферы *рыторыкі*, таму элементы П. часта выкладаліся ў падручніках па рыторыцы, часам у граматыках і літ. трактатах. Увага да П. ў эпоху сярэдневякоўя абумоўлена заняткамі па вершаскладанні ў дыдактычных мэтах пры аваладанні лацінскай мовай. Правілы П. асабліва паўплывалі на развіццё неалацінскай паэзіі. Найб. адметнай з'явай рэнесансавай П. сталі працы Ж.С.Скалігера (1561) і Я.Пантануса (1594), якія паслужылі ўзорам для многіх пазнейшых падручнікаў па П., што складаліся звычайна на лацінскай мове. У іх дэталёва выкладаліся прынцыпы паэтычнага маўлення, прыёмы і правілы вершаскладання, рэпертуар вобразных і мастацкіх сродкаў (запазычаных пераважна з антычнай гісторыі і л-ры).

У ВКЛ асновы П. ўводзіліся ў брацкіх і езуіцкіх школах з канца 16 ст. Правілы вершаскладання выкладаліся ў царк.-слав. граматыках Л.*Зізанія* (1596) і М.*Смятрыцкага* (1619). Курсы П. чыталіся з 17 ст. ў Віленскай акадэміі, калегіумах і семінарыях Беларусі і Украіны, дзе значная ўвага аддавалася вывучэнню лацінскай мовы. Вял. ўплыў на тэорыю П. ў ВКЛ зрабілі акрамя прац Пантануса тэарэтычныя лекцыі М.К.*Сарбеўскага*, чытаныя ў езуіцкіх вучэльнях Полацка і Вільні. Шмат школьных курсаў П. кампіляцыйнага характару і традыцыйнага зместу захавалася ў рукапісах 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст. пераважна на лацінскай мове, зрэдку з польскімі прыкладамі. Курс П., чытаны Феафанам Пракаповічам на лацінскай мове ў Кіева-Магілянскім калегіуме ў 1705—06, быў выдадзены Георгіем Каніскім пад назвай «Пра паэтычнае мастацтва» (Магілёў, 1786) з дадаткам вершаў Пракаповіча і ўзораў эпіграм. Пад уплывам ідэй Асветніцтва П. стала менш дагматычным і паступова страціла нарматыўны характар. Прыкладам можа служыць даследаванне на польскай мове праф. рыторыкі Віленскага ун-та П.Н.*Галянскага* «Пра красамоўства і паэзію» (Вільня, 1786, 1788, 1808), у якім спалучаюцца ідэі класіцызму і Асветніцтва. У канцы 18 ст. П. перастала служыць крыніцай правіл для паэзіі і стала адным з тэарэтычных раздзелаў літаратуразнаўства.

*Публ.*: Sarbiewski M.K. O poezji doskonałej czyli Wergiliusz i Homer: (De pergecta poesi, sive Vergilius et Homerus) / Przekł. M.Plezia, skład. S.Skimina. Wrocław, 1954; Wykłady poetykie: (Praecepta poetica) / Przekł. i skład. S.Skimina. Wrocław; Kraków, 1958; Прокопович Ф. Сочинения. М.; Л., 1961. С. 227—500; Його ж. Філософські твори. Київ, 1979. Т. 1. С. 103—507; Довгалевський М. Поетика: (Сад поетичний) / Пер. В.П.Маслюка. Київ, 1973.

*Літ.*: Петров Н.И. О словесных науках и литературных занятиях в Киевской академии от начала до ее преобразования в 1819 году // Тр. Киевской духовной академии. 1866. № 7, 11, 12; 1867. № 1; 1868. № 1, 3; Резанов В.И. К истории русской драмы: Поэтика М.К.Сарбевского. Нежин, 1911; Sinko T. Poetyka Sarbiewskiego. Kraków, 1918; Рєзанов В.І. До історії боротьби літературних стилів: Поетика Ренесансу на території України та Росії // Зап. Ніжинського інституту соціального виховання. 1931. Т. 11; Сивокінь Г.М. Давні українські поетики. Харків, 1960; Lowin P. Wykłady poetykie w uczelniach rosyjskich XVIII w. (1722—1774) a tradycje polskie. Wrocław etc., 1972; Конан У.М. Полацкі курс паэтыкі М.К.Сарбеўскага (1618—1627 гг.) // Весці АН БССР: Сер. грамад. навук. 1972. № 1; Маслюк В.П. Латиномовні поетики і риторики XVII—першої половини XVIII ст. та їх роль у розвитку теорії літератури на Україні. Київ, 1983; Саверчанка І.В. Старажытная паэзія Беларусі: XVI—першая палова XVII ст. Мн., 1992.

***Ігар Клімаў.***

**Педэці** (Pedetti) Маўрыцыо (1719, Караска каля Мілана, Італія—14.3.1799), італьянскі архітэктар. Працаваў у Нясвіжы ў князёў Радзівілаў (1748—52). Пабудаваў капліцу ў двары Нясвіжскага касцёла Божага Цела, палац «Кансаляцыя» ў нясвіжскім парку *Альба* і інш.

**Пекасінскі** (Piekosiński) Францішак Ксаверы (3.2.1844, в. Вярцаны Ропчыцкага пав., Польшча—27.11. 1906), польскі гісторык. Чл. АН у Кракаве (1878), д-р (1870). Скончыў Кракаўскі ун-т (1865). Працаваў юрыстам, банкаўскім служачым, у 1887—89 архіварыус, з 1892 дырэктар Краёвага архіва земскіх і гродскіх актаў у Кракаве, адначасова з 1891 праф. старапольскага права Кракаўскага ун-та. Буйнейшы выдавец сярэдневяковых дакументаў, у т.л. гербоўніка шляхты ВКЛ 17 ст. А.*Каяловіча* (1897), гербоўніка віцебскай шляхты 18 ст. (1899), Статута ВКЛ 1566 (1900). Лічыў, што Польская дзяржава ўзнікла ў выніку нашэсця слав. дружыны з ніжняй Лабы, а дружыннікі, якія былі пад моцным уплывам нарманаў, далі пачатак шляхце. Выказаў гіпотэзу пра скандынаўскае, рунічнае паходжанне польскіх гербаў, што даказваў у шматлікіх працах па геральдыцы, сфрагістыцы і нумізматыцы.

*Тв.*: O monecie i stopie menniczej w Polsce w XVI i XV w. Kraków, 1878; Rycerstwo polskie wieków średnich. T. 1—3. Kraków, 1896—1902; Studya, rozprawy i materyały z dziedziny historyi polskiej i prawa polskiego. T. 1—7. Kraków, 1897—1907; Moneta polska w dobie piastowskiej. Kraków, 1898.

*Літ.*: Działalność naukowa Franciszka Piekosińskiego // Kwartalnik historyczny. 1908. Z. 2, 3; Gumowski M. Dr. Franciszek Piekosiński (rys życia i prac) // Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne. 1907—1908. T. 6.

*Валерый Пазднякоў.*

**Пельгрымоўскі** (Pielgrzymowski, Pilgrzymowski, Pilgrimovius) Гальяш (сярэдзіна 16 ст.—да 6.8.1605), дзяржаўны дзеяч, пісьменнік ВКЛ. Вучыўся ў кальвіністкай школе. Прызначаны каралеўскім сакратаром Стафана Баторыя. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* узначальваў конны атрад (100 чал.), у 1581 пад камандаваннем К.*Радзівіла* ўдзельнічаў разам з Ф.С.*Кмітам-Чарнабыльскім* і А.*Рымшам* у паходзе ў Расію (г. Холм—Ржэў—берагі Волгі). У чэрв. 1583 па даручэнні Стафана Баторыя ездзіў у Маскву з лістом і падарункамі да Івана IV. У 1586 прызначаны пісарам ВКЛ, напэўна, удзельнічаў у падрыхтоўцы *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*. У 1597 дэлегат ад Ашмянскага пав. на з'ездзе шляхты ў Слоніме, дзе абраны маршалкам і дэлегатам на вальны сойм Рэчы Паспалітай. З восені 1600 сакратар пасольства Рэчы Паспалітай у Маскве на чале з Л.*Сапегам*, якое вяло перагаворы з Барысам Гадуновым і падпісала пагадненне пра 20-гадовы мір. У 1602 выконваў абавязкі маршалка Трыбунала ВКЛ. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1583 з публікацыі на лацінскай мове панегірыкаў і інш. твораў у вершах і прозе. Пісаў на бел., лацінскай і польск. мовах. У празаічным дыярыушы на польск. мове (рукапіс захаваўся часткова, надрукаваны ў 1846 у Гродне У.Трэмбіцкім) падрабязна расказаў пра цяжкасці і супярэчнасці дыпламатычнай місіі, перагаворы з Гадуновым у Маскве ў 1600—01. У дыярыушы былі тэксты і на бел. мове: праект дагавора паміж Польшчай і Расіяй, пералік падарункаў цару і яго сыну. Гэтаму падарожжу П. прысвяціў і вершаваны твор на польскай мове. З перагаворамі ў Маскве звязана і паэма «Гутарка аднаго Паляка з Маскалём на маскоўскім замку ў 1601 годзе». Праз дыялог прадстаўніка пасольства ВКЛ Івана і рус. баярына Ігната аўтар раскрывае сістэму поглядаў на міжнар. адносіны і становішча, справы рэлігіі, свабоды сумлення і інш. Паводле свайго зместу «Гутарка...» звязана з важнейшым этапам паліт. і дыпламатычных узаемаадносін паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй той эпохі, калі перыяды перагавораў пра ўзаемаразуменне і наладжванне добрасуседскіх узаемаадносін змяняліся працяглымі войнамі. Паэма знаходзіцца ля вытокаў бел. паэзіі.

*Тв.*: Бел. пер. — Пасольства Льва Сапегі ў годзе 1600 у Маскву, паводле дыярыуша Гальяша Пельгрымоўскага, сакратара пасольства, з рукапісу, выпадкова знойдзенага, Уладзіславам Трэмбіцкім апісанае. Гродна. Ва Урадавай Друкарні. 1846 / Пераклад і публікацыя У.Казберука // Полымя. 1991. № 5; Гутарка аднаго Паляка з Маскалём на маскоўскім замку ў годзе 1601 // Полымя. 1994. № 7; Didžioji Leono Sapiegos pasiuntinybė į Maskvą, 1600—1601 m. / Parengė J.Kiaupienė. Vilnius, 2002.

*Літ.*: Казбярук У. Славянскія літаратуры і праблемы беларускага параўнальнага літаратуразнаўства: (дакастрычніцкі перыяд). Мн., 1982; Яго ж. Мастацкі дакумент сярэднявечча // Спадчына. 1992. № 4; Кавалёў С. Пісьменнік і палітык эпохі Рэнесансу // Там жа; Яго ж. Гераіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993; Яго ж. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 2002; Рак А. Вершаваны дыялог Гальяша Пельгрымоўскага «Rozmowa jednego Polaka z Moskwą na zamku moskiewskim a(nn)o 1601» // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мн., 2002. Вып. 3; Бобкова О.В. Лист писаря Великого княжества Литовского Гелияша Пельгримовского. Август 1600 г. // Исторический архив. 2004. № 6.

*Уладзімір Казбярук.*

**пенязь** (ад польск. pieniądz грошы), адзінка грашовага ліку і манета у ВКЛ у 15—пач. 17 ст. 1) Адзінка грашовага ліку ў 1/10 літ. гроша ў 3-фракцыйных лікавых сістэмах рубель—грош—П., капа—грош—П. 2) Манета ў 1/10 гроша. У навук. л-ры прынята назва *дэнарый*.

*Літ.*: Синчук И.И. Денежный счет Ведомости Витебской таможенной заставы 1605 г. // Пятая Всероссийская нумизматическая конференция. Москва, 21—25 апреля 1997 г. Тезисы докладов и сообщений. М., 1997.

*Іван Сінчук.*

**Перасветаў** Іван Сямёнавіч, публіцыст 16 ст. Паходзіў з бел. шляхецкага роду, гаспадарскі дваранін. У канцы 1520-х г. у складзе атрада Ф.Сапегі паступіў на службу да венгерскага караля Янаша Запальяі, потым чэшскага караля Фердынанда І Габсбурга. З сярэдзіны 1530-х г. у ВКЛ. У канцы 1538 або пач. 1539 пераехаў у Маскву. Канцом 1540-х г. датуюцца творы П., якія былі прадстаўлены цару Івану IV Грознаму: «Казанне пра кнігі», «Казанне пра Магмет-Султана», «Першае прадказанне філосафаў і дактароў», «Другое прадказанне філосафаў і дактароў», «Казанне пра цара Канстанціна», «Малая чалабітная», «Вялікая чалабітная» (захаваліся ў складзе 2 рукапісных зборнікаў 17 ст.). Выступаў супраць свавольства вяльмож і за ўзвышэнне бедных, але храбрых «воинников», да якіх прылічваў і сябе. Асуджаў закабаленне і занявольванне людзей, выступаў за ўсеагульную роўнасць людзей: «У тым царстве, дзе людзі зняволены, у тым царстве людзі не храбрыя і да бою нясмелыя супраць непрыяцеля». Ставіў «праўду» (справядлівасць) вышэй за веру. Заклікаў цара да стварэння «судовых кніг», заваявання Казані. Становча ставіўся да султана Мухамеда II, які заваяваў Канстанцінопаль, і адмоўна да апошняга візантыйскага імператара Канстанціна XI, які абапіраўся на сваіх вяльмож, а не на простых воінаў. Відаць, з-за сваіх поглядаў у сярэдзіне 16 ст. стаў ахвярай рэпрэсій.

*Тв.*: Сочинения / Подгот. текст А.А.Зимин. М.; Л., 1956.

*Літ.*: Зимин А.А. И.С.Пересветов и его современники: Очерки по истории рус. общественно-полит. мысли середины XVI в. М., 1958.

*Валерый Пазднякоў.*

**Перасопніцкае Евангелле**, помнік украінскай кніжнай культуры і пісьменнасці. Пераклад Евангелля на ўкр. мову, блізкую народнай. Пераклад зроблены пад кіраўніцтвам архімандрыта Перасопніцкага манастыра Грыгорыя пісцом Міхаілам Васілевічам з Санака і яшчэ адным, невядомым па імю пісцом у 1556—61 з апорай на польскамоўны «Новы Запавет» лютэраніна Станіслава Мужыноўскага (Каралявец, 1551—52). Напісана ўставам на пергаміне. Рукапіс багата арнаментаваны, упрыгожаны высокамастацкімі шматколернымі застаўкамі, мініяцюрамі, ініцыяламі, канцоўкамі ў стылі Адраджэння. П.Е. знайшоў у 1837 В.М.Бадзянскі. Зберагаецца ў Цэнтр. навук. б-цы НАН Украіны ў Кіеве.



*Літ.*: Житецкий П.И. О Пересопницкой рукописи // Труды третьего археологического съезда. Киев, 1878. Т. 2; Запаско Я.П. Пам'ятки книжкового мистецтва: Українська рукописна книга. Львів, 1995; Пересопницьке Євангеліє, 1556—1561: Дослідження. Транслітерований текст. Словопокажчик. Київ, 2001.

**перасуд**, плата суддзі і падсудку за разгляд пэўнай цывільнай справы. Памер П. залежаў ад сумы іску. Паводле Статута ВКЛ 1588 «мають собе брати за працу сваю пересуду от копы литовское по два грошы литовских, и с того пересуду судьи земскому маеть прийти грошы два, а подсудку третий грош» (раздз. 4, арт. 5). П. плаціў бок, які выйграў справу. Гэта правіла пашыралася і на замкавы суд. Апрача П., кожны выйграўшы бок плаціў *памятнае*.

**Пертэс** (Perthèes) Кароль Герман дэ (1740, г. Дрэздэн, Германія—1815), картограф. Прафесійную адукацыю атрымаў у Дрэздэне. Асабісты картограф караля польскага і вял. князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага, палкоўнік кароннай артылерыі (1783). Сабраў вял. картаграфічны матэрыял амаль з усёй Рэчы Паспалітай. Склаў і апублікаваў шмат падрабязных карт, падрыхтаваў рукапіс «Геаграфічна-статыстычнае апісанне парафій Польскага каралеўства». Апошнія гады жыцця правёў у Вільні. Асаблівую каштоўнасць для гісторыі ВКЛ мае яго карта «Палонія 1770» з 48 секцый (кожная 17,8 x 23,6 см, маштаб прыкладна 1:900 000). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. карта апынулася ў Расіі, паводле Рыжскага дагавора 1921 рэвіндыкавана ў Польшчу, дзе згарэла ў час бамбардзіроўкі Варшавы ў вер. 1939. Захаваліся фотаздымкі арыгінала, зробленыя праф. Б.Бучакам.

*Літ.*: Madej J. «Polonia... 1770» Karola de Pertheesa na tle osiemnastowiecznej kartografii polskiej i krajów ościennych. Warszawa, 1987; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў. Мн., 2004.

***Леў Казлоў.***

**першы падзел Рэчы Паспалітай**. Стаў вынікам перапляцення барацьбы за гегемонію ў Еўропе манархаў Аўстрыі, Прусіі і Расіі з барацьбой за ўладу арыстакратычных груповак Рэчы Паспалітай. Групоўка Чартарыйскіх з дапамогай Расіі ў 1764 узвяла на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага і паспрабавала правесці памяркоўныя рэформы, накіраваныя на ўмацаванне суверэнітэту краіны і ўлады караля. Каб надзейна кантраляваць падзеі ў Рэчы Паспалітай, Расія дамагалася ўхвалення соймам 1768 свайго выключнага права апекі над непарушнасцю дзярж. ладу Рэчы Паспалітай пры ўмове захавання тэрытарыяльнай цэласнасці краіны, нязменнасці кампетэнцыі караля і ўраўнавання *дысідэнтаў* у правах з католікамі. Праціўнікі караля і рас. апекі стварылі *Барскую канфедэрацыю*, якую падтрымалі Турцыя і Францыя. Каб спыніць прасоўванне Расіі ў ходзе вайны з Турцыяй 1768—74 і ўзбуйніць уласныя тэрыторыі за кошт знясіленай Рэчы Паспалітай, Аўстрыя і Прусія вырашылі шляхам шантажу аказаць ціск на Расію, адказную за тэр. цэласнасць Рэчы Паспалітай. У лют. 1769 Аўстрыя захапіла стараствы Спіш і Бяскіды, у ліп. 1770 — Чарстын, Новы Торг, Сонч і саляныя капальні Вялічка пад Кракавам. З разлікам на дапамогу нейтральных дзяржаў Барская канфедэрацыя 9.4 і 9.8.1770 абвясціла бескаралеўе. Гэта аблегчыла Прусіі абвясціць прэтэнзіі на Зах. (Каралеўскую) Прусію з Торунню і Гданьскам, Памор'е, Вармію, графствы Ансбах, Байройт, біскупства Эрмланд. 7.9.1770 Прусія і Аўстрыя запатрабавалі ад Расіі вывесці войскі з заваяваных ёю дунайскіх княстваў Малдова і Валахія і ўзяць узамен усх. абшары ВКЛ. Да канца 1770 бакі устанавілі на межах тэрыторый, на якія прэтэндавалі, пагранічныя кардоны пад відам перасцярогі ад маравой язвы і канфедэратаў і пачалі тайныя перагаворы аб раўнавазе набыткаў. У маі 1771 Расія заняла спец. корпусам паўн.-ўсх. частку ВКЛ на выпадак вайны з Аўстрыяй і вырашыла спачатку дамовіцца з Прусіяй. Замах канфедэратаў на караля 3.11.1771 дыскрэдытаваў іх у вачах еўрапейскіх кабінетаў і паскорыў заключэнне падзельчага пагаднення. 6.2.1772 Расія і Прусія падпісалі дагавор аб падзеле Рэчы Паспалітай з узаемным абавязацельствам адначасова акупіраваць намечаныя абшары ў маі—чэрв. пад выглядам замірэння Польшчы і задавальнення сваіх даўніх правоў і прэтэнзій да яе. Аўстрыя патрабавала саступіць графствы Глац, Клодзь, Люблінскае і Холмскае ваяв. з Кракавам і Львовам, для чаго заключыла 6.7.1772 дагавор з Турцыяй. Каб пазбегнуць узаемнай вайны і захаваць раўнавагу сіл, Аўстрыя, Прусія і Расія 5.8.1772 падпісалі траістую канвенцыю аб падзеле Рэчы Паспалітай, дзе дамовіліся захаваць рэшткі краіны ў якасці буфера паміж сабой. Скліканаму для прымірэння *сойму 1773* яны абяцалі дазволіць самастойна ўладкаваць унутраныя парадкі ацалелай Рэчы Паспалітай. З надзеяй на гэта соймавая дэлегацыя 18.9.1773 падпісала падзельчыя трактаты, якія сойм ратыфікаваў 30.9.1773 пад пагрозай пашырэння захопаў. Аўстрыя атрымала Зах. Украіну са Львовам, паўд. частку Кракаўскага ваяв. (без Кракава) і Сандамірскае ваяв., усяго 83 тыс. км² з насельніцтвам 2650 тыс. чал. Прусія захапіла Вармію, Памор'е, Куявы, Хэлмскае ваяв. (без Торуні), Зах. Памор'е (без Гданьска), усяго 36 тыс. км² з насельніцтвам 530 тыс. чал. Расія заняла паўн.-ўсх. абшары ВКЛ да Дзвіны, Друці і Дняпра, усяго 92 тыс. км² з насельніцтвам 1300 тыс. чал.; гэтыя тэрыторыі ўвайшлі ў склад Пскоўскай і Магілёўскай губ.

*Літ.*: Соловьев С.М. История падения Польши. М., 1863; Sorel A. Sprawa wschodnia w XVIII wieku. Lwów, 1903; Cegelski T., Kądzieła Ł. Rozbiory Polski, 1772—1793—1795. Warszawa, 1990; Стегний П.В. Разделы Польши и дипломатия Екатерины II. 1772, 1793, 1795. М., 2002; Носов Б.В. Установление российского господства в Речи Посполитой, 1756—1768 гг. М., 2004.

***Яўген Анішчанка.***

**Першы статут Вялікага княства Літоўскага**, гл. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*.

**Петрыкавічы** (цяпер Петрыкаў, горад, цэнтр Петрыкаўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мазырскім пав., на р. Прыпяць. Вядомы з 15 ст. ў Слуцкім княстве. Належалі Алелькавічам, з 17 ст. Хадкевічам. У 16—18 ст. існаваў замак, які пацярпеў ў час вайны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай 1534—37. У час *Налівайкі паўстання 1595—96* двойчы захоплены казакамі. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* быў базай паўстанцаў, з якой адпраўлялі боепрыпасы ў суседнія бел. гарады. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655 тут ста-

яў гарнізон з навакольнай шляхты і мяшчан. У 1664 знаходзіўся ў руках казакоў палкоўніка Дацко Васілевіча. З 1776 у П. 2 кірмашы на год, развіты шавецкі промысел, выраб аўчын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Петрыкаў**, горад, цэнтр Петрыкаўскага р-на Рэспублікі Беларусь, г. *Петрыкавічы.*

**Петрэй дэ Эрлезунда** Пётр (Пер Персан, лац. Petrus Petrejus, швед. Peer Persson; 1577, г. Упсала, Швецыя—1622), шведскі дыпламат і гісторык. На дзярж. службе з 1595. У 1605—11 тройчы наведваў Расію. Удзельнічаў у заключэнні ваенна-дыпламатычнага саюза паміж шведскім каралём Карлам IX Вазай і царом Васілём Іванавічам Шуйскім. Асабіста ведаў Ілжэдзмітрыя I. У 1614 пачаў працу па гісторыі Расіі ад стараж. часоў да 1612 (выдаў у 1615 у Стакгольме на шведскай мове), пасля давёў яе да 1617 (выдаў у 1620 у Лейпцыгу на ням. мове). Значная частка яго працы прысвечана адносінам паміж Расіяй і ВКЛ у 16—пач. 17 ст. Назву Белая Русь ён выводзіў ад адзення жыхароў: «Адна мясціна ў гэтай краіне называецца Беларуссю, таму што там мужчыны ўлетку носяць на галовах белыя шапкі, а жанчыны фарбуюць і падводзяць сабе твар бяліламі». У яго працы шмат некрытычных запазычанняў з сачыненняў С.Герберштэйна, А.Гваніні і асабліва з хронікі К.Бусава, аднак у ёй шмат і самастойных назіранняў.

*Тв.*: Рус. пер. — История о Великом княжестве Московском, происхождении великих русских князей, недавних смутах, произведенных там тремя Лжедмитриями, и о московских законах, нравах, правлении, вере и обрядах, которую собрал, описал и обнародовал Пётр Петрей де Ерлезунда в Лейпциге 1620 г. // Чтения О-ва истории и древностей российских. М., 1865. Кн. 4; 1866. Кн. 1.

**пешая шляхта**, адна з ніжэйшых катэгорый *шляхты* паводле попісу войска ВКЛ 1567—68. З-за раздраблення шляхецкіх маёнткаў пры перадачы зямлі ў спадчыну некалькім сынам, а потым іх нашчадкам да сярэдзіны 16 ст. ўтварылася група шляхты, якая не мела сялян і апрацоўвала зямлю сама. У яе не было сродкаў, каб у час вайны ісці ў войска з канём, адпаведным рыштункам і ўзбраеннем, таму ёй дазвалялася выступаць у феад. апалчэнні ў шэрагах пяхоты. У 1567 П.ш. складала невял. частку войска — у бел. паветах ВКЛ 3,6%. У 17—18 ст. служба П.ш. заменена сістэмай «удзельніцтва»: дробная шляхта павінна была выстаўляць аднаго ўзброенага конніка агулам ад некалькіх уладанняў; з 1 «каня» зямлі (5 валок, або каля 107 га) адзін шляхціц ішоў у паход, а іншыя збіралі грошы на каня і зброю. Юрыдычна П.ш. і яе нашчадкі мелі ўсе правы і прывілеі, якімі карысталася шляхта; у побыце ж яна ўжо ў 16 ст. па сваім эканам. становішчы была блізкая да вышэйшай групы сялянства.

*Літ.*: Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 194; Грицкевич А.П. Хозяйственное и правовое положение военнослужилого населения в Слуцком княжестве в XVI—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962. Мн., 1964; Его ж. Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV—XVI) // Первый Литовский Статут 1529 г. Вильнюс, 1982.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Пётр I** [30.5(9.6).1672, г. Масква—28.1(8.2).1725], рускі цар з 1682, імператар з 1721. Сын цара *Аляксея Міхайлавіча* ад шлюбу з Н.К.Нарышкінай. Выбраны царом 27.4(7.5).1682. Пасля смерці цара Фёдара Аляксеевіча быў царом разам з Іванам V (рэгентка пры іх — царэўна Соф'я Аляксееўна). Пасля няўдалай спробы Соф'і ўчыніць дзярж. пераварот (1689) і смерці Івана V (1696) П. I стаў адзінадзяржаўным правіцелем. У 1697—98 у складзе Вял. пасольства быў у Рызе, Караляўцы, Лондане, Вене, Галандыі, вывучаў караблебудаўніцтва, артылерыйскую справу і інш. Жорстка пакараў удзельнікаў стралецкага паўстання 1698, расфарміраваў стралецкія палкі, саслаў у манастыр царэўну Соф'ю і жонку Еўдакію Лапухіну. З 1703 жонка П. I — *Кацярына I.* Апіраючыся на прыхільнікаў новаўвядзенняў (А.Д.*Меншыкаў*, Б.П.Шарамецеў, Ф.М.Апраксін і інш.), вёў актыўную ўнутраную і знешнюю палітыку. Правёў сац.-эканам., паліт., ваенныя рэформы ў інтарэсах дваран, купецтва, буржуазіі. У 1699 створана Бурмістарская палата — цэнтр. фінансавая ўстанова і адначасова выбарны орган самакіравання пасадскага (гар.) насельніцтва; у 1708 краіна падзелена на губерні, у 1719 — на правінцыі; у 1711 ліквідавана Баярская дума, створаны Сенат — вышэйшая дзярж. ўстанова; у 1718 прыказы заменены калегіямі; у 1722 «Табель аб рангах» упарадкаваў праходжанне службы ў арміі і ўрадавым апараце; пачалося стварэнне пракуратуры; у 1721 Расія абвешчана імперыяй. Паводле закону 1722 цар сам прызначаў пераемніка на трон. Узмацніўся прыгон: з 1682 да 1710 з дварцовых зямель раздадзена дваранам 43,6 тыс. сял. двароў; памесце абвешчана спадчыннай уласнасцю (1714), уведзены падушны падатак (1722). Супраць прыгону і нац. прыгнёту адбываліся паўстанні, у т.л. Астраханскае ў 1705—06, пад кіраўніцтвам К.Булавіна ў 1707—08. Развіваліся прамысловасць і гандаль. Пабудаваныя на казённыя грошы металургічныя, зброевыя, суконныя і інш. мануфактуры перададзены прамыслоўцам, ім дадзена права купляць і прыпісваць да казённых і прыватных заводаў прыгонных (т.зв. прыпісныя сяляне). З 1699 на аснове рэкруцкай сістэмы створана рэгулярная армія, вайсковая служба стала пажыццёвай. У 1696 закладзены асновы рас. флоту, пазней створаны флот на Балтыйскім моры. Для падрыхтоўкі афіцэраў заснаваны спец. школы, у 1715 — Марская акадэмія. Уведзены новы каляндар (1700), выдадзена першая рас. газета «Ведомости» (1702), уведзены грамадзянскі шрыфт (1710), адкрыты арыфметычныя школы для дваранскіх дзяцей (1714), заснавана Пецярбургская АН (1724). У час праўлення П. I Расія атрымала выхад да Балтыйскага мора, далучыла зах. ўзбярэжжа Каспійскага мора. П. I узначальваў рас. войскі ў час Азоўскіх паходаў 1695—96, у Пруцкім паходзе 1711 супраць туркаў, у многіх бітвах *Паўночнай вайны 1700—21* са шведамі, у час якой быў у Полацку (май 1705), Гародні (вер. 1705), Оршы (лют. 1706), Менску (сак. 1706). На тэр. Беларусі праводзіў палітыку падтрымкі праваслаўя, абмежавання і скасавання уніяцкай царквы. Дамагаўся ўмацавання ў Рэчы Паспалітай рас. ўплыву, для гэтага падтрымаў *Тарнагродскую канфедэрацыю* і *Віленскую канфедэрацыю 1716*, скіраваныя супраць абсалютысцкай палітыкі Аўгуста II, садзейнічаў

правядзенню «Нямога сойма» 1717. Ён удзельнічаў у найважнейшых дыпламатычных перагаворах. У 1699 заключыў дагаворы з Даніяй і Саксоніяй аб стварэнні Паўн. саюза супраць Швецыі. У 1716 ездзіў у Германію, Галандыю, Францыю; у выніку перагавораў пацверджаны дагавор 1714 аб саюзе з Прусіяй, заключаны дагавор з Францыяй аб дружбе і пасрэдніцтве; удзельнічаў у падрыхтоўцы Ніштацкага мірнага дагавора 1721.

*Літ.*: Шрейер Ю. Петр Великий в Вильне // Памятная книжка Виленской губернии на 1860 год. Вильно, 1860. Ч. 2; Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 1—13. СПб.; Л.; М., 1887—2003; Deruga A. Piotr Wielki a bazyljanie połoccy // Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy uniwersztetu Stefana Batorego w Wilnie, 1923—1933. Wilno, 1933; Богословский М.М. Петр I: Материалы для биографии. Т. 1—5. М., 1940—48; Воскресенский Н.А. Законодательные акты Петра I. Т. 1. М.; Л., 1945.

**Пётр** Магіла [31.12.1596 (10.1.1597), г. Сучава, Малдова—1(11).12.1647], дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Трэці сын валашскага (1601—02) і малдаўскага (1606—07) кн. Сімяона і венгерскай прынцэсы Маргрэты (Меланні). З 1607 вучыўся ў правасл. брацкай школе ў Львове, вывучаў тэалогію ў Замойскай акадэміі, магчыма, вучыўся ў Галандыі і Парыжы. Служыў у войску, змагаўся з туркамі ў бітвах пад Цэцорай 1620 і *Хацінскай бітве 1621*. З 1627 архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры. Як дэпутат сойма 1632 актыўна дамагаўся аднаўлення правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай пры захаванні лаяльнасці да каталіцкай улады. У 1632 абраны правасл. кіеўскім і галіцкім мітрапалітам замест Ісаі Капінскага, зацверджаны каралём Уладзіславам IV і інтранізаваны ў Львове ў 1633. Заснаваў Магілёўскую правасл. епархію (1632). Актывізаваў дзейнасць манастырскай друкарні (заснавана ў 1606) і манастырскай школы (заснавана ў 1632), якую ў 1633 аб'яднаў з Кіеўскай брацкай школай, што паклала пачатак *Кіева-Магілянскай акадэміі*. Непасрэдна кіраваў Віленскім, Слуцкім, Магілёўскім і Аршанскім брацтвамі і манастырамі. У 1635 наведаў Вільню, Менск і інш. бел. гарады. Палепшыў царк. структуру правасл.



**Пётр** Магіла.

царквы, рэфармаваў манастыа, аднавіў цэрквы (у т.л. Дзесяцінную царкву ў Кіеве, дзе былі знойдзены рэліквіі кн. Уладзіміра), спрыяў пашырэнню асветы сярод духавенства. Пад яго кіраўніцтвам былі падрыхтаваны катэхізіс (праца вялася ў 1640—45), патэрык Кіева-Пячэрскай лаўры Афанасія Кальнафойскага «Тэратургіма» (1638, на польск. мове), важнейшыя літургічныя кнігі на царк.-слав. мове: «Намаканон (1629), «Літургікон» (1629), «Анфалагіён» (1636), «Вучыцельнае Евангелле» (1637), «Трыёдзь» (1640), «Еўхалагіён» (1646, трэбнік), да якіх ён напісаў прадмовы. Выдаў зборнік уласных казанняў з вершамі «Крыж Хрыста збавіцеля» (1632), магчыма, яму належыць палемічны трактат «Літас, альбо Камень» (Кіеў, 1644). Кананізаваны як святы Укр. правасл. царквой (1996).

*Літ.*: Голубев С. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники: (опыт церковно-ист. исследования). Т. 1—2. Киев, 1883—98; Ionescu T. La vie et l'oeuvre de Pierre Mohila. Paris, 1944; Феномен Петра Могили: Біографія. Діяльність. Позиція. Київ, 1996; Нічик В.М. Петро Могила в духовній історії України. Київ, 1997.

***Ігар Клімаў.***

**Пётр з Ганязі** (Пётр Гезка з Ганязі; паміж 1525—30, г. Ганязь Падляшскага ваяв.—15.9.1573), ідэолаг левай, сялянска-плебейскай плыні Рэфармацыі ў ВКЛ, належаў да *антытрынітарыяў*. Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве (1551), удасканальваў веды ў Італіі, Швейцарыі. У 1554 праф. сафістыкі ў Падуанскім ун-це. Паслядоўнік рэліг.-філасофскага вучэння іспанскага вучонага М.Сервета і сац.-паліт. ідэй мараўскіх анабаптыстаў. Выдаў на лацінскай мове творы «Супраць боскасці Ісуса Хрыста» (Берасце, 1557), «Аб першахрысціянскай царкве» (1563?; не зберагліся), на польскай мове «Пра трох», «Пра сына Божага» і «Пра хрысціянскае хрышчэнне» (усе каля 1570). Удзельнічаў у антытрынітарскіх сінодах, палемізаваў з С.*Будным*. Адмаўляў царк.-тэалагічную і філасофскую схаластычную традыцыі. Выступаў супраць прыватнай уласнасці, сац. няроўнасці, войнаў, феад. права, свецкай улады, пакарання смерцю. Яго паслядоўнікі *Якуб з Калінаўкі, Павел з Візны, М.Чаховіц*.

*Літ.*: Górski K. Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI w. Kraków, 1949; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970.

**Пётр з Дусбурга** (Petrus de Dusburg), храніст канца 13—пач. 14 ст., святар Тэўтонскага ордэна. Паходзіў з нямецкага г. Дуйсбург або галандскага г. Дусбург. Падрабязнасці жыцця і дзейнасці не захаваліся. Магчыма, быў набліжаным да вял. магістра ордэна Вернера фон Орзельна, якому прысвяціў «Хроніку зямлі Прускай» на лац. мове. «Хроніка» ахоплівае падзеі ад заснавання ордэна ў Палесціне ў 1190 і да 1326, асаблівая ўвага аддадзена падзеям канца 13—пач. 14 ст., сучаснікам якіх быў аўтар. Ёсць дапаўненні за 1326—30, аўтарам якіх, відаць, быў таксама Пётр. «Хроніка» змяшчае багаты і часта унікальны матэрыял пра войны ордэна з зах.-балцкімі плямёнамі, Літвой, Польшчай, пра напады рыцараў на Гародню і Навагародак, («Крывіцкую зямлю»), пра ваенную дзейнасць гарадзенскага кашталяна *Давыда*.

*Тв.*: Рус. пер. — Хроника земли Прусской. М., 1997.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пікулік** Алена Мікалаеўна (н. 1.1.1958, в. Хожава Маладзечанскага р-на), беларускі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1991), дацэнт (1999). Скончыла Ін-т жывапісу, скульптуры, архітэктуры імя І.Я.Рэпіна

ў Ленінградзе (1980). З 1985 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі (з 1993 старшы навук. супрацоўнік). Даследуе мастацтва бел. старадрукаў, бел. кніжнае мастацтва 20 ст., творчасць айчынных мастакоў-графікаў. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 6, 1994).

*Тв.*: Барочныя тэндэнцыі ў мастацтве магілёўскіх старадрукаў // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998; Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

**Пліпенка** Міхаіл Фёдаравіч (н. 19.5.1936, в. Нежыхаў Брагінскага р-на), беларускі этнолаг. Чл.- кар. НАН Беларусі (1994), д-р гіст. навук (1993), праф. (1995). Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь (1999). Скончыў БДУ (1961). Працаваў настаўнікам. З 1967 у БДУ (з 1977 дацэнт). З 1991 заг. аддзела этнаграфіі, з 1995 этналогіі, у 1994—2003 дырэктар Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі. Даследуе пытанні гісторыі бел. этналогіі і фалькларыстыкі, бел. этнагенезу, сямейнага побыту, вясельных звычаяў і абрадаў бел. сялянства, нар. рэлігійных вераванняў. Адзін з аўтараў прац «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (Мінск, 1980), «Народная педагогіка беларусаў» (Мінск, 1996), «Беларусы» («Белорусы», Масква, 1998), «Беларусь на мяжы тысячагоддзяў» (Мінск, 2000), «Беларусы. Т. 4. Вытокі і этнічнае развіццё» (Мінск, 2001), «Беларусы. Т. 5. Сям'я» (Мінск, 2001), «Беларусы. Т. 6. Грамадскія традыцыі» (Мінск, 2002).

*Тв.*: Этнография Белоруссии. Мн., 1981; Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.

**Пільтэнская акруга**, адм.-тэр. адзінка ў Рэчы Паспалітай у 16—18 ст. Знаходзілася ў Інфлянтах (на З сучаснай Латвіі), складалася з 3 адасобленых тэр. масіваў. Гал. гарады — Пільтэн (Пільтэне), Газенпот (Айзпутэ). З 13 ст. гэта тэр. Курляндскага біскупства, у 1559 біскуп прадаў свае ўладанні Даніі. У 1583 Рэч Паспалітая пачала вайну з Даніяй за гэтыя землі, якая скончылася падпісаннем 10.4.1585 Кроненборгскага дагавора. Данія за 30 тыс. талераў адмовілася ад акругі на карысць Рэчы Паспалітай. У 1611 створана аўтаномная П.а., падначаленая непасрэдна каралю польскаму і вял. князю літоўскаму. У 1656 курляндскаму герцагу ўдалося падначаліць акругу сабе, аднак у 1717 прызначаная каралём камісія пазбавіла герцага праву на яе. Вярхоўным органам улады ў П.а. была ландрацкая калегія (6 ландратаў і 1 пісар), якую выбіраў курляндскі ландтаг з ліку пільтэнскай шляхты і зацвярджаў кароль. Ландрацкая калегія была і вышэйшым судом у акрузе. З 1611 дзейнічаў асобы свод права — Пільтэнскі статут. Чатырохгадовы сойм 1788—92 пераўтварыў у 1791 П.а. ў Пільтэнскі павет. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Пільхоўскі** Давыд Зыгмунт (15.12. 1735, в. Руткішкі Гарадзенскага пав.— 4.12.1803), асветнік, педагог, перакладчык. Д-р філасофіі (1766) і каканічнага права (1778). З 1752 езуіт. У 1754—57 і 1761—65 вучыўся ў Віленскай акадэміі, там жа выкладаў граматыку і паэтыку. З 1765 святар. У 1766—72 выкладаў у Віленскім езуіцкім «Калегіум нобіліум», перадаў яму сваю багатую бібліятэку. У 1772—73 сакратар польскага асістэнта ў Рыме. З 1773 бібліятэкар «Калегіум нобіліум» у Вільні, кіраваў друкарняй. У 1783—87 генеральны візітатар школ Адукацыйнай камісіі ў ВКЛ. У 1783—93 выкладчык польскай і лацінскай л-р і старшыня Маральнага калегіума Гал. школы ВКЛ. З 1785 канонік, пасля кусташ інфлянцкі, з 1794 біскуп-суфраган віленскі. З 1797 чл. Віленскай адукацыйнай камісіі. З 1800 правадзейны чл. Таварыства сяброў навук у Варшаве. Аўтар акалічнасных вершаў. У 1768 выдаў у Вільні пераклады на польскую мову твораў стараж.-рымскага гісторыка Гая Салюстыя Крыспа «Пра змову Катыліны» і «Югурцінская вайна», у 1771 — твораў Сенекі «Пра міласць жыцця», «Пра жыццё шчаслівае», «Пра жыццё мудрае», «Пра спакой душы» і інш., у 1775 — «Пра ласкавасць і гнеў», у 1781—82 — «Лісты да Люцылія» (т. 1—4, з каментарыямі). У час працы Чатырохгадовага сойма 1788—92 выступіў у абарону правоў сялян. Свае сац. погляды выклаў у кнізе «Адказ на пытанне: няўжо ў мінулыя стагоддзі нячулась да прыгонных настолькі авалодала сэрцамі палякаў, што нават вучоныя заразіліся ёю, або Дадатак да кнігі «Пра польскіх прыгонных» (Вільня, 1789).


Д.З.**Пільхоўскі**.
Невядомы мастак. 18 ст.

**Пільштын** (Пільштынава, дзявочае Русецкая) Саламея Рэгіна (1718, Навагародчына—пасля 1760), мемуарыстка, падарожніца, лекарка. У 14 гадоў разам з мужам трапіла з Беларусі ў г. Стамбул (Турцыя). Назіраючы за лекарскай дзейнасцю мужа, авалодала спосабамі і сродкамі лячэння хвароб, у т.л. хвароб вачэй. Атрымала афіцыйны дазвол на лекарскую дзейнасць у Стамбуле. У 1739 вярнулася на радзіму, вяла медыцынскую практыку ў Нясвіжы (у якасці лекаркі яе запрасілі М.К.*Радзівіл* Рыбанька і яго жонка Ф.У.*Радзівіл*). Ездзіла ў Пецярбург (імператрыца Ганна Іванаўна наблізіла яе да сябе, прыняла ў штат прыдворнай абслугі), Вену, яшчэ двойчы ў Турцыю. У 1760 са Стамбула накіравалася паломніцай у Св. Зямлю. Далейшы лёс невядомы. У 1760 напісала на польск. мове мемуары «Рэха, на свет пададзенае, заняткаў, падарожжа і жыцця майго авантураў». Мемуары нагадваюць прыгодніцкі раман. У іх П. каларытна паказала побыт і розныя бакі жыцця Беларусі, Турцыі, пецярбургскага двара Ганны Іванаўны. У творы — успаміны і ўласныя разважанні наконт тагачасных падзей, цікавыя замалёўкі-партрэты людзей, якія сустракаліся ў час яе вандровак па краінах

Захаду і Усходу, метады лячэння розных хвароб. У мове мемуараў шмат беларусізмаў, трапляюцца бел. прыказкі і прымаўкі.

*Тв.*: Proceder podróży, życia mego awantur. Kraków, 1957; Бел. пер. — Авантуры майго жыцця. Мн., 1993.

*Літ.*: Липатов А.В. Формирование польского романа и европейская литература: Средневековье, Возрождение, Барокко. М., 1977; Грыцкевіч В.П. Адысея наваградскай лекаркі: Саламея Русецкая. Мн., 1989.

*Адам Мальдзіс.*

**Пінск** (цяпер горад, цэнтр Пінскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Пінскага княства*, пасля *Пінскага павета*; у сутоках р. Піна і Прыпяць. Упершыню ўпамінаецца ў «Летапісцы Пераяслава-Суздальскага» пры апісанні падзей канца 10 ст., у «Аповесці мінулых гадоў» — пад 1097. Да сярэдзіны 12 ст. горад уваходзіў у *Тураўскае княства*, з 2-й пал. 12 ст. цэнтр удзельнага Пінскага княства. 3 13 ст. цэнтр *Пінска-Тураўскай праваслаўнай епархіі* (з 1596 *Пінская грэка-каталіцкая епархія*). 3 пач. 14 ст. П. у складзе ВКЛ. У пач. 1527 да сцен П. падышлі крымскія татары, але горад ім узяць не ўдалося. 3 1539 цэнтр *Пінскага стараства*, з 1566 цэнтр Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. У сярэдзіне 16 ст. меў 27 вуліц, 800 двароў і 3—4 тыс. ж., магутную сістэму ўмацаванняў (гл. *Пінскія гарадскія ўмацаванні*). 12.1. 1581 П. атрымаў магдэбургскае права і герб — у чырвоным полі залаты лук са стралой і нацягнутай цецівой. Магдэбургскае права пацвярджалася ў 1589, 1633, 1650, 1785. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* у кастр. 1648 паўстаўшае насельніцтва П. разам з казацкім атрадам А.Нябабы аказалі супраціўленне войску стражніка Р.Мірскага (гл. *Пінска абарона 1648*). У сярэдзіне 17 ст. ў П. каля 10 тыс. ж., у т.л. 280 купцоў. Праз горад праходзіў гандлёвы шлях з Прыбалтыкі на Пд. Праз Піну, Мухавец і Зах. Буг П. быў звязаны з гарадамі Польшчы. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* 5.10.1655 да П. прыплыў атрад рас. ваяводы Д.А.Валконскага, які захапіў горад, але праз 2 дні адступіў, а горад і навакольныя слабоды спаліў. У 1660—64 П. неаднаразова асаджалі ўкр. і рас. атрады, якія 25.6.1660 узялі яго штурмам. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у маі 1706 войскі шведскага караля Карла XII захапілі і разрабавалі горад. Архітэктурнае аблічча П. складвалася з 16 ст.; у гэты час існавалі Троіцкі мост, 2 брамы, 14 цэркваў, 3 правасл. манастыры (*Пінскі Лешчанскі манастыр*, Варварынскі і Богаяўленскі) і 2 каталіцкія кляштары (*Пінскі кляштар францысканцаў* і *Пінскі кляштар дамініканцаў*). У 17—18 ст. сфарміраваўся архітэктурны цэнтр горада; пабудаваны мураваныя езуіцкі касцёл і калегіум (гл. *Пінскі езуіцкі калегіум*), дамініканскі і кармеліцкі кляштары, ратуша, *Пінскі палац* М.Бутрымовіча, *Пінскі кляштар бернардзінцаў*, у прадмесці Каралін — *Каралінскі замак, Пінскі касцёл Карла Барамея*. У 1-й пал. 18 ст. працавала *Пінская друкарня*. У 1791 тут зроблена спроба ўтварыць самастойную правасл. царкву ў Рэчы Паспалітай (гл. *Пінская кангрэгацыя 1791*). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.




*Літ.*: Грушевский А.С. Пинское Полесье XIV—XVI вв.: Ист. очерки. Туров, Городок и Пинск в составе В.К.Литовского. Пинское староство к. Боны, XIV—XVI вв. Киев, 1903; Миролюбов Б.В. Пинск. Мн., 1977; Лозицкий А.И. Пинск XVI столетия. Мн., 1994; Пинск: Путеводитель по столице Полесья. Пинск, 1993; Чантурия Ю. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI—первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Мн., 2005.

**Пінска абарона 1648**, абарона *Пінска* паўстаўшымі гараджанамі ад урадавых войск у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Восенню 1648 жыхары Пінска ўзнялі антыфеад. і антыкаталіцкае паўстанне і, змовіўшыся з казакамі А.*Нябабы*, упусцілі іх у горад. А каб казакі «да Ражаства Хрыстова не адступілі з горада, гараджане абяцалі ім дзесяць тысяч злотых і вернае жалаванне, кожнаму па дзесяць капеек, кажухі, боты, шапкі». Шляхта, каталіцкія святары, якія не паспелі ўцячы з горада, былі перабіты, касцёлы і кляштары разрабаваны. 5.10.1648 горадам спрабаваў авалодаць маршалак Пінскага пав. Л.Ельскі, але яго атрад трапіў у засаду і вымушаны быў адступіць да в. Ставок. 9.10.1648 да горада падышлі войскі на чале са стражнікам ВКЛ Р.Мірскім. Ельскі накіраваў гараджанам ліст з прапановай спыніць супраціўленне, на што атрымаў рашучую адмову. Урадавае войска пры падтрымцы 8 гармат пачало штурм. 120 драгунаў Гансеўскага, 200 чал. П.Падлеўскага праз Северскую браму і 2 харугвы Ельскага праз Лешчынскую браму адначасова ўварваліся ў горад. Паўстанцы і казакі адступілі ад сцен і заселі ў дамах. Амаль кожны дом даводзілася браць штурмам. Частка паўстанцаў спрабавала пераплыць на стругах цераз Піну, але перагружаныя стругі патанулі. Адзін атрад казакоў спрабаваў прарвацца на 3 ад горада, але быў перахоплены, адцеснены да балота і знішчаны. Бai ў горадзе працягваліся больш за суткі, 10 кастр. супраціўленне паўстанцаў было зломлена. У час бою большая частка горада згарэла, загінула больш за 3 тыс. паўстанцаў.

*Літ.*: О бунте города Пинска и об усмирении оного в 1648 г. // Чтения в О-ве исто-

рии и древностей российских. М., 1847. Кн. 1.

**Пінскае княства**, удзельнае княства ў вярхоўях р. Прыпяць і нізоўях яе прытокаў Ясельды, Піны, Стыра, Гарыні. Цэнтр — г. *Пінск*. Вылучылася з *Тураўскага княства* паміж 1167 і 1174, бо яшчэ ў 1167 кн. Юрый Яраславіч выдаваў сваю дачку Малфрыд «ис Турава» за луцкага кн. Усевалада Яраславіча, а ўжо ў 1174 у летапісе ўпамінаюцца асобна «князья туровские и пинские». Першым пінскім князем быў Яраслаў Юр'евіч, сын тураўскага кн. Юрыя Яраславіча. У 12—13 ст. П.к. знаходзілася пад уплавам Уладзіміра-Валынскага і Кіеўскага княстваў. У 1174 пінскія князі ўдзельнічалі ў паходзе на Кіеў уладзімірскага кн. Андрэя Багалюбскага. У 1183 «Ярослав князь пиньский» удзельнічаў у пераможным паходзе на полаўцаў кіеўскага кн. Святаслава. У 1190 у Пінску адбылася «свадба Яраполча» — пінскага князя, брата Яраслава Юр'евіча. У 1204 летапіс называе наступнага пінскага князя Уладзіміра (Яраславіча ?), які быў захоплены ў час барацьбы за Уладзіміра-Валынскае княства. У 1226—27 пры няўдалай спробе замацаваць г. Чартарыйск за П.к. упамінаецца кн. Расціслаў Пінскі. Пад 1229 у летапісе запісана, што ў час паходу ў Польшчу валынскіх князёў Уладзімір Пінскі быў пакінуты аберагаць Берасце ад яцвягаў. У 13 ст. пачасціліся набегі літоўцаў на Валынь (1205, 1241, 1246, 1253, 1262) праз землі П.к., у час якіх моцна цярпела яго насельніцтва. У Пінску ў гэты час княжылі Фёдар, Дзямід і Юрый Уладзіміравічы. Пасля ўтварэння ВКЛ *Міндоўгам* і яго забойства ў 1263 у Пінск уцёк сын Міндоўга *Войшалк*, які прыняў праваслаўе. Пад 1292 летапіс паведамляе пра смерць пінскага кн. Юрыя Уладзіміравіча. У пач. 14 ст. П.к. ўвайшло ў ВКЛ. Паводле завяшчання *Гедзіміна* княства атрымаў *Нарымонт*. Яно заставалася за яго нашчадкамі да 2-й пал. 15 ст. (гл. *Нарымонтавічы*). Пасля смерці Юрыя Сямёнавіча з роду Нарымонтавічаў П.к. ўвайшло ў склад велікакняжацкіх уладанняў *Жыгімонта Кейстутавіча*. У 1471 П.к. аддадзена Марыі Гаштольд, удаве кіеўскага кн. Сямёна Алелькавіча, потым — мужу яе дачкі Фёдару Іванавічу Яраславічу. У 1519 вял. кн. Жыгімонт I Стары перадаў княства сваёй жонцы *Боне* Сфорца. Пасля ад'езду Боны ў Італію ў 1556 княства перайшло яе сыну Жыгімонту II Аўгусту і пераўтворана ў старраства. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 яго тэр. ўвайшла ў *Пінскі павет* Берасцейскага ваяв.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Очерки истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891; Грушевский А.С. Пинское Полесье: Ист. очерки. Ч. 1—2. Киев, 1901—03; Лысенко П.Ф. Древний Пинск XI—XIII вв. Мн., 1997.

***Пётр Лысенка.***

**Пінскае староства**, Пінская воласць, буйны дзяржаўны маёнтак у ВКЛ у 15—18 ст. Утворана ў 2-й пал. 1430-х г. на тэр. былога *Пінскага княства*, якое канфіскавана ў апошняга яго ўладальніка кн. Аляксандра Юр'евіча Носа з роду *Нарымонтавічаў* і далучана да ўладанняў вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча. Пры гэтым, відаць, невял. частка княства (маёнткі Адрыжын і Дольск) засталіся ў руках здрабнелых князёў (Бурэмскіх, Курцэвічаў, Дольскіх). У сярэдзіне 15 ст. частка абшараў воласці раздадзена ў прыватную ўласнасць феадалам, а большасць яе ў 1471 пажалавана ўдаве слуцкага ўдзельнага кн. Сямёна Алелькавіча Марыі. Пасля яе смерці ў 1501 воласць перайшла да яе дачкі Аляксандры (Алены) і яе мужа кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. Тады ж да Пінскай вол. была далучана Вядская вол. у Новагародскім пав., якую атрымаў у спадчыну ад бацькі кн. Яраславіч. Бяздзетныя кн. Яраславіч і яго жонка завяшчалі маёнтак вял. кн. Жыгімонту I Старому, які фактычна атрымаў яго ў 1519 і тады ж падараваў сваёй жонцы *Боне* Сфорца. Маёнткам кіравалі намеснікі (старасты) Боны; у адносінах да яго ўжываліся назвы «княства», «староства», «павет», «дзяржава», «воласць». У інвентары П.с., складзеным у 1552, пералічаны г. Пінск, мястэчкі Нобель і Мотыль, двары Сялец, Ставок, Дружылавічы і 101 сяло; усе яны ўваходзілі ў 7 войтаўстваў (Бродніцкае, Давячораўскае, Кераўскае, Хоенскае, Хрышчыблотаўскае, Чэрніцкае, Шупечыцкае) і асобную Вядскую воласць. Пасля ад'езду Боны ў Італію (1556) П.с. лічылася асабістай уласнасцю яе сына — вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста. У 1566 ён ураўняў яго статус з інш. дзярж. маёнткамі. Паводле адм. рэформы 1565—66 П.с. цалкам уключана ў *Пінскі павет*, у якім займала каля 1/3 тэрыторыі. З таго часу звычайна знаходзілася ў закладзе ў буйных феадалаў ВКЛ, якія карысталіся тытулам старастаў. Пасля далучэння да Рас. імперыі (1793) большая частка П.с. (3995 мужчынскіх душ) падаравана Кацярынай II кн. М.В.Рапніну, рэшта раздробнена на невял. прыватныя і дзярж. маёнткі.



Аўтар В.Л.Насевіч

*Літ.*: Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561—1566 годах пинским и кобринским старостою Лаврином Войною. Вильна, 1874; Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г. Вильна, 1884.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Пінска-Зарэчны павет**, гл. *Запінскі павет*.

**Пінска-Тураўская грэка-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка уніяцкай царквы ў Беларусі ў 1596—1795. Створана на аснове *Пінска-Тураўскай праваслаўнай епархіі* пасля *Берасцейскай уніі 1596*. Ахоплівала ў асноўным тэр. *Пінскага павета* Берасцейскага ваяв. Была самай малалікай сярод уніяцкіх епархій па колькасці вернікаў: у 1664 — 10 прыходскіх цэркваў. У 1676 у каралеўскіх маёнтках епархіі было 39 святароў, у шляхецкіх—46, усяго прыхаджан — 74. Колькасць прыходаў расла па меры пераводу ва уніяцтва правасл. цэркваў і манастыроў. У 1668 уніяцкім стаў *Пінскі Лешчанскі манастыр*. У пач. 18 ст. ў епар-



хіі каля 100 прыходаў. У 1722 у унію пераведзена да 20 тыс. чал., у 1743 уніятамі захоплены Купяцкі Увядзенскі і Навадворскі Успенскі манастыры. На 1772 епархія ахоплівала тэр. 25,2 тыс. км² у Берасцейскім ваяв. і налічвала каля 20 дэканатаў. У 1795 у сувязі з вяртаннем уніяцкіх прыходаў у праваслаўе і рэарганізацыяй структуры уніяцкай царквы епархія скасавана; прыходы, вернікі якіх засталіся уніятамі, увайшлі ў Брэсцкую уніяцкую епархію.

*Літ.*: Костюк В. (о. Василий). Очерки по истории православия в Пинском Полесье (X—XVIII вв.) // Запіскі Культурнагістарычнай Калегіі імя Канстанціна Астрожскага. Брэст, 2002.

***Віктар Касцюк.***

**Пінска-Тураўская праваслаўная епархія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Створана ў 1005 як Тураўская правасл. епархія Кіеўскай мітраполіі. Першапачаткова ахоплівала значныя тэрыторыі на Пд і З Беларусі з гарадамі Тураў, Пінск, Берасце, Навагародак, Гродня, Слонім, Ваўкавыск, Здзітаў, Небль, Сцепань, Дубровіца, Слуцк, Капыль і інш. У 13 ст. кафедра з Турава перанесена ў Пінск. У 14 ст. епархія пачаргова ўваходзіла ў склад *Галіцкай праваслаўнай мітраполіі* і *Літоўскай праваслаўнай мітраполіі*, а пасля іх скасавання — зноў у Кіеўскай; яе тэрыторыя моцна зменшылася. У 16 ст. ахоплівала Пінскі пав., падзялялася на Пінскую, Давыд-Гарадоцкую і Тураўскую пратапопіі. Пасля *Берасцейскай уніі 1596* епархія стала уніяцкай (гл. *Пінска-Тураўская грэка-каталіцкая епархія*). У 1620 зроблена спроба аднавіць П.-Т.п.е., іерусалімскі патрыярх Феафан прызначыў епіскапам Аўрамія. Аднак пры легалізацыі ў 1632 правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай П.-Т.п.е. не адноўлена.

*Літ.*: Грушевский А.С. Пинское Полесье XIV—XVI вв.: Ист. очерки. Туров, Городок и Пинск в составе В.К.Литовского. Пинское староство к. Боны, XIV—XVI вв. Киев, 1903; Щапов Я.Н. Туровские уставы XIV века о десятине // Археографический ежегодник за 1964 год. М., 1965.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пінская друкарня**. Існавала пры *Пінскім езуіцкім калегіуме* ў 1729?—46? Выдавала л-ру на польскай і лац. мовах: літургічныя выданні, панегірыкі, казанні, белетрыстычныя зборнікі «ўсякай усячыны». Дакладна вядомы 8 выдадзеных ёю кніг, ёсць інфармацыя яшчэ пра тры. Прэфектам друкарні ў 1730—35 быў Ежы Кучынскі, запрошаны з Варшавы, а ў 1733—34 з ім працаваў Тамаш Тхаржніцкі, таксама друкар з Варшавы. У 1729 выйшла кніга літургічнага характару «Тыдзень святы Першасвятара Пія» («Hebdomas sancta Pii Sacerdotis»), якая перавыдадзена ў 1733. Дакладна вядомы 2 выданні твораў П.Скаргі: «Нядзельныя і святочныя казанні на цэлы год» («Kazania na niedziele y swięta całego roku», 1734, 1735). Лічыцца, што выданне 1735 — гэта папярэдняе, але са змененым тытульным лістом. У 1735—41 у дзейнасці друкарні быў перапынак, калі пінскія езуіты вымушаны былі нават наступную кнігу Скаргі — «Казанні аб сямі сакраментах» («Kazania o siedmiu sakramentach») — друкаваць у 1735 у Віленскай акадэмічнай друкарні, што сведчыць пра недахоп сродкаў ці абсталявання і друкарскіх матэрыялаў у П.д.

Друкарня аднавіла дзейнасць у 1741, але замест літургічных выданняў выдавала толькі свецкую л-ра — панегірыкі і зборнікі «усякай усячыны». У 1741 выдадзены панегірык «Залатая вольнасць польская» («Złota wolność polska») на шлюб Я.К.Мнішка і Кацярыны з Замойскіх. У тым жа годзе кніга была перавыдадзена на лац. мове («Hebdomas saeculorum»). Выдаваліся творы бацькі і сына К.І. і А. Несялоўскіх. Відаць, К.І.*Несялоўскі* арэндаваў абсталяванне П.д. для выдання сваіх кніг. 1741 датуецца выданне Адама Несялоўскага «Чатырохбаковыя разважанні» («Qudragezymalne contemplacyje») — зборнік яго польскіх вершаў, перадрукаваны ў Пінску ў 1746. Абодва выданні выйшлі без пазначэння месца і года выдання. К.І.Несялоўскі выдаў у Пінску кампілятыўныя зборнікі «ўсякай усячыны» — «Публічныя забаўкі» («Otia publica vix domestica», 1743, «у новай друкарні ў Пінску») і «Хатнія забаўкі» («Otia domestica», 1745), у якія, акрамя ўласных барочных вершаў, уключыў разнастайныя дакументы, эпісталярныя матэрыялы, прамовы, пасланні, эпітафіі, легенды, маніфесты. Некаторыя крыніцы згадваюць яшчэ адно выданне К.І.Несялоўскага — збор эпіграм «Epigramata vernacula», што быццам выйшаў у Пінску ў 1743.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959; Мальдзіс А. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; Рошчына Т.І. Выданні пінскіх езуітаў (XVIII ст.) // Матэрыялы Другіх кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Рэчы Паспалітай» (Мінск, 15—16 верасня 2000 г.). Мн., 2002; Самайлюк Т. Друкарня езуітаў у Пінску // Спадчына. 2003. № 4—5.

***Таццяна Рошчына.***

**Пінская кангрэгацыя 1791**, Пінская генеральная кангрэгацыя 1791, сход праваслаўнага духавенства і вернікаў Рэчы Паспалітай з мэтай стварыць у краіне аўтакефальную царкву, незалежную ад Сінода Рас. імперыі. Рашэнне аб скліканні кангрэгацыі прынята *Чатырохгадовым соймам 1788—92*. 23.3.1791 кароль Станіслаў Аўгуст прызначыў камісарамі на кангрэгацыю ад Кароны сандамірскага пасла М.Каханоўскага і люблінскага пасла кн. Чартарыйскага, ад ВКЛ — троцкага пасла Залескага і пінскага пасла і падстарасту М.*Бутрымовіча*. Навагародскі пасол Бярновіч быў прызначаны для зносін з кангрэгацыяй і для забеспячэння яе дакументамі. У Пінск прыбылі 96 дэлегатаў: 24 манахі, 21 святар, 51 свецкая асоба (сярод іх 19 чал. са шляхты, астатнія з мяшчан). У кангрэгацыі ўдзельнічалі і католікі (напр., генерал-інспектар ВКЛ Грабоўскі) і уніяцкае духавенства (епіскап пінскі Іаакім Дашкевіч-Гарбацкі і яго каад'ютар Іасафат Булгак). Кангрэгацыя пачала працу ў Пінску 1.7.1791. Яна прыняла рашэнне, што Генеральная кангрэгацыя, або «Нацыянальны сінод праваслаўных цэркваў каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага», складаецца з архіепіскапа і 3 епіскапаў, старшых, архімандрытаў, асэсараў кансісторыі і дэпутатаў, абраных епархіяльнымі кангрэгацыямі. Генеральная кангрэгацыя павінна была збірацца праз кожныя 4 гады. Яе галоўная, або генеральная кансісторыя складаецца з 12 чал. Архіепіскап павінен быць на правах мітрапаліта і знаходзіцца ў духоўнай залежнасці ад канстанцінопальскага патрыярха. На сваіх з'ездах кангрэга-

цыя павінна была абмяркоўваць духоўныя справы сваёй царквы, прызначаць, калі гэта патрэбна, 4 кандыдатаў на кафедру епіскапа. З іх каралеўскі ўрад павінен быў выбраць адну. Месцам склікання генеральнай кангрэгацыі прызначаўся Пінск. Нягледзячы на пратэсты з боку некаторых каталіцкіх і уніяцкіх епіскапаў, сойм зацвердзіў рашэнне кангрэгацыі і абвясціў у 1792 закон «Упарадкаванне царкоўнай іерархіі грэка-ўсходняга абраду» («Urządzenie hierarchii cerkiewnej obrządku grecko-orientalnego»). Але 2-і і 3-і падзелы Рэчы Паспалітай не дазволілі выканаць гэтыя рашэнні.

*Літ.*: Рункевич С. История Минской архиепископии (1793—1832 гг.). СПб., 1893; Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве. 2 изд. Мн., 2002.

***Алена Філатава.***

**Пінскі Богаяўленскі манастыр**, мужчынскі праваслаўны манастыр у *Пінску*. Узнік у ранні перыяд праваслаўна-уніяцкай канфрантацыі. У жн. 1614 на сродкі Рэгіны Гарабурды і Пінскага правасл. брацтва была пабудавана Богаяўленская царква, пры ёй аселі манахі з *Пінскага Лешчанскага манастыра*. Праз месяц царква разабрана уніятамі. Скаргі праваслаўных да караля і ў сойм былі безвыніковымі. У 1633 кароль Уладзіслаў IV дазволіў брацтву пабудаваць на ўскраіне горада манастыр з вучылішчам, пачатковай школай і шпіталем. У 1647 драўляны манастыр згарэў, у 1650 адбудаваны. Быў цэнтрам праваслаўя на Піншчыне. У 18 ст. цярпеў прыцясненні з боку пінскага уніяцкага епіскапа і фанатычнай шляхты. Аднак у 1757 за манастыр заступіўся канцлер Ф.М. Чартарыйскі, а ў 1775 кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі вызваліў манастырскіх падданых ад усіх падаткаў. У 1799 драўляныя будынкі згарэлі, у 1800 манастыр размешчаны ў комплексе Пінскага езуіцкага калегіума. Дзейнічаў да 1-й сусветнай вайны.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Пінскі Варварынскі манастыр**, жаночы праваслаўны, пасля уніяцкі манастыр у *Пінску*. Вядомы з 1520, калі кн. Фёдар Іванавіч Яраславіч з жонкай адпісалі яму вёскі Высокае, Гольцы, Дубай, Лісіцк, двор Піскалаўшчына ў в. Асобавічы. Аднак, відаць, манастыр першапачаткова заснаваны ў Тураве ў часы ўдзельнага княства і пераведзены ў Пінск у 15—16 ст. У 16—18 ст. ігуменні паходзілі з вядомых родаў — Валовічаў, Велятыцкіх, Войнаў, Ордаў, Пачапаўскіх, Сапегаў, Трызнаў, Шырмаў. Пры ігуменні Ефрасінні Трызне (канец 16—пач. 17 ст.) манастыр стаў уніяцкім, ігумення набыла вёскі Завідчыцы і Жытновічы; манастыру належалі 32 валокі зямлі і 732 душы, 23 пляцы ў Пінску і 2 у Слуцку. З 1839 манастыр зноў праваслаўны. У сярэдзіне 19 ст. размяшчаўся ў комплексе Пінскага кляштара бернардзінцаў, потым пераведзены ў Мінск.

***Аляксандр Ярашэвіч.***



**Пінскі езуіцкі калегіум**. Фота пач. 20 ст.

**Пінскі езуіцкі калегіум**. У 1630 езуіты запрошаны ў Пінск стольнікам М.Ельскім. Ахвяраванні на заснаванне калегіума пасля смерці Ельскага зрабіў у 1632 пінскі староста А.С.Радзівіл. У 1632—38 існавала езуіцкая рэзідэнцыя, якая ў 1638 пераўтворана ў калегіум. Спачатку размяшчалася на Рыначнай пл. ў доме Ельскага (згарэў у 1648). У 1636—47 на беразе Піны ў цэнтры горада ўзведзены мураваны касцёл св. Станіслава (у 2-й пал. 18 ст. перабудаваны), а пры ім у 1651—75 — 3-павярховы мураваны будынак калегіума (2-я яго чарга закончана ў 1694—1738). У 17—18 ст. калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Дубаі, Лагішыне, Падгацці, Снятыні, Тураве, Янаве. У 1632 было 40 вучняў, у канцы 17 ст. — каля 700. У 1645 адчынена музычная бурса, у 1694 — аптэка, увесь час дзейнічаў тэатр, у 1727—35 — друкарня (гл. *Пінская друкарня*), меліся б-ка, шпіталь для бедных. Калегіуму належалі навакольныя маёнткі Адрыжын, Альбрыхтаў, Асавец, Аснежыцы, Баландзічы, Бродніца, Велесь, Дубай, Іванчыцы, Крывічы, Снятын, Удрожын, Целяханы. У 1773 калегіум зачынены, вучэбны корпус перададзены пад школу Адукацыйнай камісіі. Касцёл у 1786 перададзены уніятам і стаў кафедральным саборам *Пінска-Тураўскай грэка-каталіцкай епархіі*, з 1799 перайшоў да праваслаўных, належаў Богаяўленскаму манастыру. У 1919 касцёл вернуты езуітам, у 1923 аднавілася навучальная дзейнасць калегіума. У 1939 калегіум зачынены. У 1953 касцёл зруйнаваны.

**Пінскі касцёл Карла Барамея**. Пабудаваны ў *Пінску* у прадмесці Каралін у 1695 з дрэва, у 1770—82 адбудаваны з цэглы (асвячоны ў 1784). Узведзены як касцёл аб'яднання рымска-каталіцкіх ксяндзоў — *камуністаў*. Адначасова з касцёлам існавалі драўляныя жылы корпус і гаспадарчыя пабудовы (не захаваліся). Касцёл аднанефавы, з невял. трансептам. Алтарная частка не вылучана, сакрыстыі размешчаны за гал. алтаром нефа. Да касцёла прылягае 2-ярусная званіца з шатровым дахам і купалам. У яе ніжнім ярусе знаходзяцца хоры. Характэрнай асаблівасцю збудавання з'яўляюцца моцныя канструкцыі сцен, таўшчыня якіх у асобных месцах больш за 2 м. Бакавыя сцены прарэзаны невял. арачнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны лапаткамі. Нешматлікія элементы барочнай аздобы (пілястры, нішы, паяскі, абрамленні акон і інш.) выкарыстаны пераважна ў званіцы. Інтэр'ер — зальнае памяшканне, у якім вял. значэнне нададзена высокім крыжовым скляпенням і нішам сцен. Дэкаратыўная аздоба інтэр'ера не захавалася.

***Юрый Якімовіч.***



**Пінскі кляштар бернардзінцаў**. Існаваў у 1705—1832 у *Пінску*. Заснаваны ў 1705 М.С.Вішнявецкім і яго жонкай Кацярынай з Дольскіх. Агульная плошча 6 маргоў 3 пруты, уключаў агароды і лугі. Штогодняя «правізія» складала 1500 злотых. Уваходзіў у Літ. правінцыю ордэна бернардзінцаў. У 1765—86 пабудаваны мураваны аднанефавы касцёл Міхаіла Архангела. У пач. 19 ст. дабудаваны сакрыстыя і прылеглае памяшканне. Гараднічы Берасцейскага ваяв. В.Грабоўскі адпісаў на будоўлю касцёла 16 тыс. злотых. У 1832 кляштар скасаваны. Пазней касцёл перарабілі на царкву св. Варвары, а ў 1858 у памяшканнях кляштара размясціўся правасл. жаночы манастыр. Царква дзейнічае.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Пінскі кляштар дамініканцаў**. Існаваў у 1667—1850 у Пінску. Заснаваны жонкай полацкага ваяводы Я.К.Копаця, маркграфіняй Марыяй Лукрэцыяй Строцы, якая ахвяравала кляштару 12 700 злотых на набыццё маёнтка Шышова Берасцейскага пав., фальварка над Ясельдай з «грунтам ворным», зямельных пляцаў у Пінску. Для будаўніцтва драўлянага касцёла св. Дамініка (закончаны ў 1697) былі запісаны 3 тыс. злотых на алтар Маці Божай Ружанцовай, ахвяравана сярэбранае начынне. У 1709 пачалося ўзвядзенне новага жылога будынка. У 18 ст. ў кляштары была музычная капэла. У 1785 разабраны стары касцёл, у 1787—1810-я г. пабудаваны новы. У 1850 кляштар скасаваны, касцёл перабсталяваны пад правасл. Фёдараўскі сабор (1857).

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Пінскі кляштар францысканцаў**. Існаваў у 1396—1852 у Пінску. Заснаваны кн. *Жыгімонтам Кейстутавічам*, які даў кляштару зямельны ўчастак у в. Вышэвічы. У сярэдзіне 15—пач. 17 ст. кляштар атрымаў зямельныя падараванні ад вял. кн. Казіміра IV Ягелончыка (вёскі Статычы, Дружылавічы, Ставок, Сяльцо, Охава, карчму ў Пінску), Аляксандра, Уладзіслава IV (в. Кудрычы) і інш. Да 1625 у складзе Польскай правінцыі ордэна францысканцаў, пазней Руска-Літ. правінцыі. З 1632 у кляштары жыло не меней як 18 манахаў. Да пач. 18 ст. драўляны касцёл Успення Маці Божай (адначасова парафіяльны на ўсё Пінскае Палессе) неаднаразова цярпеў ад пажараў. У 1-й чвэрці 18 ст. пабудаваны мураваны касцёл і званіца. Да 1830 кляштару належалі фальваркі Вышэвічы і Рудка з 6 вёскамі, 64 валокі ворнай зямлі, 2 карчмы, прыбытак складаў 4576 руб. серабром. У інвентары 1663 упамінаецца парафіяльная школа пры кляштары з бакалаўрам (існавала да 1799). Скасаваны ў 1852, касцёл застаўся парафіяльным. Будынкі касцёла і кляштара захаваліся. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 288.

*Аляксандр Ярашэвіч.*



**Пінскі кляштар францысканцаў.**

**Пінскі Лешчанскі манастыр** Нараджэння Багародзіцы. Існаваў у 13 ст.—1839 у прыгарадзе Пінска Лешча. Упершыню згадваецца ў летапісах у сувязі з уцёкамі сюды кн. Войшалка пасля забойства яго бацькі Міндоўга. У 14 ст. пінскі кн. Юрый Нарымунтавіч даў манастыру востраў паміж рэкамі Пінай, Струменем і Орліцай. Ахвяраванні манастыру рабілі кн. Яраславічы, а таксама Велятыцкія, Галоўні, Качаноўскія. Манастыр быў рэліг. і культурным цэнтрам Палесся. З 15 ст. тут жылі епіскапы *Пінска-Тураўскай праваслаўнай епархіі*, якія лічыліся архімандрытамі манастыра; тут, відаць, вялося летапісанне, перапісваліся кнігі. У манастыры знаходзіўся цудатворны абраз Успення Багародзіцы (відаць, перанесены ў 15 ст. з Турава з пераводам у Пінск епіскапскай кафедры). У 1580—84 пабудаваны новы драўляны храм Успення Багародзіцы. У 1-й пал. 17 ст. архімандрытам быў Іосіф *Нелюбовіч-Тукальскі*, у далейшым мітрапаліт кіеўскі. У 1668 манастыр стаў уніяцкім. Новы драўляны крыжова-купальны храм пабудаваны ў 1746 (у ім лічылася цудатворнай разьбяная фігура Ісуса Хрыста). У пач. 19 ст. манастыру належалі вёскі Аўсямераў, Вульвавічы, Жытновічы, Заглубочча, Любель, Патапавічы, Сухое, Тырновічы, у 1816 было 478 душ прыгонных. У 1839 манастыр скасаваны, царква згарэла ў канцы 19 ст.

*Літ.*: Миловидов А.И. Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря. М., 1900; Довгялло Д.И. Пинский Лещинский монастырь в 1588 г. Мн., 1909.

*Аляксандр Ярашэвіч.*



**Пінскі Лешчанскі манастыр** Нараджэння Багародзіцы. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

**Пінскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Цэнтр — г. *Пінск*. Папярэднікам П.п. было *Пінскае княства*, з якога на працягу 15—пач. 16 ст. вылучыліся шматлікія дробныя маёнткі мясц. баяр-шляхты, буйныя магнацкія і царк. вотчыны (Адрыжын, Бездзеж, Дольск, Жабер, Чэрвішча, Угрынічы і інш.). Тэрыторыя, што непасрэдна адносілася да Пінскага замка, мела статус удзелу, з 1519 — асабістага ўдзелу каралевы Боны і яе сына Жыгімонта Аўгуста (гл. *Пінскае стараства*). Дзякуючы ўдзельнаму статусу павятовага цэнтра, П.п. фактычна заставаўся па-за ваяводскай структурай, як і інш. уладанні Боны (Давыд-Гарадоцкі, Клецкі, Кобрынскі, Рагачоўскі паветы). У склад П.п. залічаліся дробныя ўладанні мясц. баяр, якія выходзілі на вайну ў складзе Пінскай харугвы. У 1528 каля 70 такіх баяр і баярскіх удоў выстаўлялі разам 69 коннікаў, яшчэ 48 выходзілі на вайну асабіста. У выніку адм.-тэр. рэформы 1565—66 вялікакняжацкія ўдзелы былі ўраўнаваны ў правах з інш. дзярж. маёнткамі. Да П.п. былі далучаны тэр. былых Давыд-Гарадоцкага, Дубровіцкага, Тураўскага княстваў (паветаў), вотчыны паноў, князёў і царквы. Павет увайшоў у склад *Берасцейскага ваяводства*. Плошча яго ў новых межах складала каля 17 тыс. км². Меў павятовую харугву блакітнага («лазуравага») колеру з выявай «Пагоні». Паводле попіса войска ВКЛ 1567 з прыватных маёнткаў П.п. выстаўлялася каля 280 коннікаў, з іх каля 60 выстаўлялі буйныя землеўладальнікі, рэшту — павятовая шляхта. У 1650 павет налічваў 23 тыс. дымоў, каля 157 тыс. чал. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* засталося 14 тыс. дымоў, 92 тыс. чал. У 2-й пал. 18 ст. ў П.п. налічвалася каля 740 паселішчаў з насельніцтвам каля 160 тыс. чал. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Спірыдонаў М.Ф. Завяршэнне фарміравання Пінскага павета ў 1566 г. // Весці НАН Беларусі. Сер. гум. навук. 1998. № 4.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Пінскі палац**. Пабудаваны ў *Пінску* ў 1784—90 паводле праекта К.Шыльдхаўза для М.*Бутрымовіча* на высокім левым беразе р. Піна, да якой павернуты дваровым фасадам. Мураваны П-падобны ў плане будынак з развітым цокальным паверхам. 1-павярховую сярэднюю частку займаюць парадныя памяшканні з авальнай залай у цэнтры, якая ўтварае эркер з балконам на гал. фасадзе. Планіроўка анфіладная. Бакавыя крылы вырашаны ў 2 узроўнях і маюць невял. жылыя памяшканні ўздоўж калідораў. Знадворны дэкор мае рысы ранняга класіцызму. Фасады аздоблены плоскімі і рустава-





ымі лапаткамі, сандрыкамі, фрыз антаблемента — трыгліфамі і метопамі. Эркер, выкружаныя вуглы і тарцы бакавых крылаў аздоблены калонамі і паўкалонамі дарычнага ордэра.

*Юрый Якімовіч.*

**пінскія гарадскія ўмацаванні**. Існавалі ў *Пінску* ў 14—18 ст. Складаліся з замка і ўмацаванняў вакол пасадаў. Замак размяшчаўся на гарадзішчы, на левым беразе р. Піна. У вопісе горада за 1561—66 згадваецца «вежа Владычная», якая стаяла асобна ў паўн. частцы замкавых умацаванняў. Акрамя брамы з пад'ёмным мостам перад ёй у лініі абароны стаялі яшчэ не менш як 3 вежы, назвы якіх невядомы. Перыметр замкавых умацаванняў складаў 0,5 км. Пра канструкцыю абарончых сцен замка звесткі адсутнічаюць. Аднак з павіннасцей сялян замкавай воласці вынікае, што яны абавязаны былі даглядаць менавіта гародні, вартаваць замак, даваць падводы. Мяшчане разам з царкоўнікамі таксама выконвалі замкавую работу — рубілі замак і паркан, даглядалі абарончы роў, масты.

Умацаванні вакол пасадаў складаліся з 2 ліній абароны. 1-я лінія ў выглядзе вала, паркана і рова ахоплівала сетку радыяльных вуліц, якія адыходзілі ад замка і дугой упіраліся ў высокі бераг Піны і фактычна ўключалі тэр. горада 11—13 ст. Вал перарываўся 4 брамамі (Уладычная, Меская, Траецкая і Спаская). Уздоўж берага ракі ішоў драўляны паркан, які спускаўся ў абарончы роў. Агульная даўжыня 1-й лініі аброны складала 1,4 км. На тэрыторыі, заслоненай гэтым паўкальцом умацаванняў, размяшчаліся традыцыйныя для гарадоў з магдэбургскім правам рынак з крамамі, ратуша, жылыя пабудовы, студня. У найб. адказных месцах абароны (каля гар. брам і на подступах да замка) стаялі манументальныя будынкі манастыроў і цэркваў: каля Спаскай брамы — францысканскі кляштар з магутнай мураванай агароджай і вуглавымі вежамі, на У ад замка — Богаяўленскі манастыр і кляштар езуітаў, на З ад Уладычнай брамы — кляштары базыльян, марыявітак, кармелітаў і Маркаўскі манастыр. Другая лінія абароны, т.зв. астрог, даўжынёй каля 2 км, таксама ўпіралася ў бераг Піны. Яна ўключала 4 брамы: Берасцейскую на З, Віленскую на Пн, Северскую і Лешчынскую на ПнУ. На З і ПнЗ перад валам ішоў штучны абарончы роў, які на ПнУ і У пераходзіў у прыродны з працякаючым па дне ручаём, т.зв. Каралінскай канавай. З У горад прыкрываўся *Пінскім Лешчанскім манастыром* і комплексам умацаванняў *Каралінскага замка*. Перад кожнай брамай быў пад'ёмны мост, перакінуты цераз абарончы роў.

У выніку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* абарончыя збудаванні Пінска былі моцна разбураны. У 1673 сойм Рэчы Паспалітай адзначыў, што «пагранічнае места Пінск не мае вартай фартыфікацыі супраць непрыяцельскай інкурсіі, якой ён падвяргаецца разам з паветам», а таксама заклікаў пінчукоў умацаваць горад агульнымі намаганнямі. Усе 3 лініі абароны Пінска (замак, «перакоп», «астрог») захоўваліся да канца 18 ст. Апошні раз яны згадваюцца ў інвентары Пінскага старэства за 1783. Пазней, на працягу 19 ст., гар. ўмацаванні былі паступова зніveліраваны.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замки Белоруссии. Мн., 1987.

**пісар**, пасада ва ўстановах кіравання і суда ВКЛ у 14—18 ст. Назва «П.», відаць, прыйшла з Польшчы. Яе з'яўленне і замацаванне адлюстроўвае працэс вылучэння асобнай катэгорыі работнікаў устаноў і асяродкаў вытворчасці дзелавой дакументацыі. Пасада П. узнікла ва ўмовах, калі пры невял. узроўні пісьменнасці і адсутнасці спец. адукацыі пісьменныя асобы валодалі адначасова некалькімі навыкамі і ўменнямі: чытаць, пісаць, лічыць, лагічна, пераканаўча і красамоўна выкладаць думкі. Гэта абумовіла шматфункцыянальнасць пасады П. Удзел П. адначасова ў падрыхтоўцы тэкстаў дакументаў, складанні розных прамоў, перапісванні тэкстаў, бухгалтарскага ўліку вызначыў іх удзел не толькі ў справаводстве, але таксама юрыдычнай, пратакольнай, гаспадарчай, знешнепаліт. і інш. галінах. У буйных канцылярыях і асяродках дзелавога пісьменства П. першапачаткова быў непасрэдным выканаўцам, але паступова ён ператварыўся ў кіраўніка і непасрэднага арганізатара дзейнасці ўстаноў. У гэтым сэнсе тэрмін «П.» мог азначаць тую службовую асобу, якая выкарыстоўвала працу пісцоў ніжэйшага рангу — дзякаў. У канцылярыі ВКЛ у 17 ст., калі тэрмін «дзяк» стаў замяняцца на «П.» уласна П. стаў называцца «вялікі П.». Ужо пры Ягайле (калі быў польскім каралём, 1386—1434) існавала група пастаянных П. Цяжка сказаць, ці былі яны службовымі асобамі, альбо іх функцыі выконвалі духоўныя асобы, якія прыцягваліся да працы ў канцылярыі. Пасада П. пры Вітаўце мела ў значнай ступені асабісты характар, як і пры Свідрыгайле і Жыгімонце Кейстутавічы. Пры Казіміры ў 1440-х г. узнікла стацыянарная канцылярыя, а пры ёй штат стацыянарных П. гаспадарскіх. Тэрмін «П.» у 2-й пал. 15 ст. часам выкарыстоўваўся як агульнае найменне ўласна П. і дзякаў, але ў афіцыйных дакументах 16 ст. так называлі амаль выключна ўласна П. Пісарства з'яўлялася пасадай у канцылярыі ВКЛ ужо ў сярэдзіне 15 ст. Ужо ў 1-й чвэрці 16 ст. на яе прызначалі афіцыйна. П. афіцыйна зацвярджаў фармуляр і змест выходных дакументаў. Да 1520-х г. пераважна П. непасрэдна складаў праекты дакументаў і выконваў інш. даручэнні тэхнічна-выканаўчага характару. З 1520-х г. адзін з П. быў рэальным кіраўніком і арганізатарам установы. Да сярэдзіны 1540-х г. П. падзяляліся на рускіх і лацінскіх (апошнія таксама называліся сакратарамі). Да рэгламентацыі штату рускіх (1516) і лацінскіх П. (1522—23) агульная колькасць першых перавышала колькасць другіх у 2 разы. Існавалі таксама татарскія і арабскія П., яны не складалі пастаянны штат установы і не мелі афіцыйнага статуса. Першапачаткова колькасць П. была вялікай (да 13) і не была рэгламентавана. У 1516 у выніку рэарганізацыі ў канцылярыі засталіся працаваць толькі 2 рускія пісары. Прыблізна ў 1522—23 скарачэнню і рэгламентацыі падвергліся і лацінскія П. З гэтага часу на працягу 1520-х г. дакументы выдаваліся толькі 3 лацінскімі П. З 1520-х г. улады ўтрымлівалі стабільную і акрэсленую колькасць вядучых П. У 1522—30 працавалі 3 рускія П., у 1531—43 — 2. У 2-й пал. 1530—пач. 1540-х г. лацінамоўныя дакументы выпускалі 2 лацінскія П. З 1545 па 1549, г. зн. пасля ліквідацыі падзелу на рускіх і лацінскіх



П., абавязкі вядучых П. выконвалі толькі 2 П. З 1566 працавала 5 П. З часоў праўлення Стафана Баторыя [1576—86] іх колькасць не перавышала 4 (толькі пры Яне III Сабескім іх было 5). Як тэхнічны персанал П. уваходзілі ў склад Рады ВКЛ і называліся «раднымі пісарамі». Прыблізна з 1516 П. пры ўступленні на пасаду прыносілі прысягу. Многія лацінскія П. мелі вышэйшую адукацыю, якую яны атрымлівалі ў зах.-еўрапейскіх ун-тах. Пасада П. канцылярыі для многіх была стартавай пляцоўкай для ажыццяўлення пасяховай службовай кар'еры. З 1-й трэці 16 ст. адзін з П. быў адначасова земскім *падскарбіем*.

Непасрэдным начальнікам П. быў найвышэйшы П. (вядомы з 1476). Не выключана, што першапачаткова існавалі 2 найвышэйшыя П.: адзін для рускай, другі — для лацінскай канцылярыі. З 1-й трэці 16 ст. найвышэйшым быў той П., які адначасова займаў пасаду земскага падскарбія. Пасада найвышэйшага П. паслужыла прататыпам пасады *падканцлера*. У 1645 створана пасада прысяжнага дэкрэтовага П., які загадваў кнігамі дэкрэтаў Метрыкі ВКЛ. З 1519 паходзяць першыя звесткі пра скарбных П., якія вялі прыходныя і расходныя ведамасці. У 1550-х г. устаноўлены 2 скарбныя П. з пашыранымі паўнамоцтвамі. Ім было даручана прымаць справаздачы з даходаў, якія паступалі ў скарб, ажыццяўляць кантроль за сумай паступленняў, інфармаваць гаспадара аб усім тым, што яны лічылі шкодным для даходаў (калі іх непасрэдны начальнік не зрабіў гэта асабіста). У далейшым колькасць скарбных П. была павялічана да 3 (часам іх было 4), а іх абавязкі дыферэнцыраваны: 2 з іх адказвалі за прыход (прыходавыя П., 1 з іх загадваў скарбовай Метрыкай) і 1 — за расход (расходавы П.). У 2-й чвэрці 16 ст. дзейнічалі П. двароў Віленскага павета і П. двароў Троцкага павета (абодва з 1529), П. двароў і валасцей Жамойцкай зямлі (з 1530), П. рускіх (падняпроўскіх) валасцей [у далейшым ён называўся «П. замкаў і валасцей (староставаў) украінных»] (з 1536 ці 1537), на якіх былі ўскладзены кантрольна-гаспадарчыя функцыі ў адпаведных рэгіёнах. Пасада П. рускіх валасцей праіснавала да пач. 17 ст. З 1560-х г. вядомы польны П. ці П. людзей служэбных, у абавязкі якога ўваходзіла складанне *попісаў войска*.

Земскі П. існаваў на Падляшшы ўжо ў 14 ст. На астатняй тэр. ВКЛ такая пасада ўведзена з 1565—66. Як і інш. ураднікі *земскага суда*, прызначаўся вял. князем з 4 кандыдатаў ад шляхты, якія абіраліся на павятовым сойміке. Кандыдат павінен быў быць чалавекам «добрым», набожным, дабрадзейным, годным, ведаць законы і ўмець пісаць, быць ураджэнцам ВКЛ, мець нерухомую маёмасць у адпаведным павеце. Такія ж патрабаванні прад'яўляліся гродскаму П., які ўваходзіў у склад *гродскага суда*. Пры ўступленні на пасаду земскі і гродскі П. прыносілі прысягу, згодна з якой абавязваліся запісваць судовыя абмеркаванні, выказванні, рашэнні нічога не дабаўляючы і не апускаючы, сачыць за запісваннем, выдаваць выпісы ці копіі з земскіх і гродскіх кніг, якія будуць патрабаваць бакі. Земскаму П. належала на падставе пісьмовага пратакола, які быў замацаваны подпісам суддзі альбо падсудка, аформіць прыгавор суда, унесці яго ў земскія кнігі і пасля праверкі суддзёй і падсудкам правільнасці запісанага выдаць бакам выпісы. Земскі П. рыхтаваў судовыя павесткі (*позвы*), заручныя лісты і інш., вёў кнігі суда. Усе лісты і выпісы, якія зыходзілі з земскага і гродскага судоў, а таксама іх копіі, падпісваліся П., у т.л. і позвы да яго як адказчыка. У распараджэнні П. знаходзілася і павятовая пячатка з выявай герба ВКЛ «Пагоні», якая прыкладалася толькі да позваў. Існавалі пэўныя патрабаванні да працы П. Яны не павінны былі выкладаць справы занадта аб'ёмна, абавязаны былі дабаўляць усё, што патрабаваў судовы бок ці яго адвакат. Але праца судовых бакоў з П. павінна была адбыцца не пазней, чым праз 3 дні пасля пасяджэння суда (пакуль тое, што адбывалася на ім, добра помнілася). Пасля стварэння ў 1792 *зямянскіх судоў*, якія аб'ядналі земскія і гродскія суды, дзейнічалі П. зямянскі актавы і П. зямянскі дэкрэтовы. Першы выбіраўся на элекцыйных сойміках на пажыццёвы тэрмін, другі прызначаўся на 7 год суддзямі зямянскага суда.

Пасада месцкага П. існавала ў кожным горадзе ВКЛ з *магдэбурскім правам*. У некаторых буйных з іх, напрыклад, Вільні, існаваў падзел П. на рускіх і лацінскіх. Службовыя асобы ВКЛ — прадстаўнікі мясц., цэнтр. і дворнага кіравання — мелі ўласных П. Апошнія вядомы з 15 ст. Іх праца выкарыстоўвалася як для асабістых, так і службовых патрэб. У 16 ст. сярод уласных П. сустракаюцца не толькі рускія, але і лацінскія П. Асабістыя П. ваявод, стараст і намеснікаў-дзяржаўцаў былі прататыпамі гродскіх П. Існавалі таксама яўныя П., якія ўдзельнічалі ў складанні духоўных лістоў (*тастаментаў*). Функцыі П. выконвалі асабістыя дзякі службовых і духоўных асоб, а таксама дзякі ў тых гарадах, што не мелі магдэбургскае права (напрыклад, Віцебску).

*Літ*.: Любавский М.К. Литовско-русский сейм. М., 1900; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Kosman M. Kancelaria wielkiego księcia Witolda // Studia Źródłoznawcze. 1969. T. 14; Bardach J. O praktyce kancelarii litewskiej za Zygmunta I Starego // Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII wieku. Warszawa, 1970; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 11. Kórnik, 1994; Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995; Korczak L. Litewska rada wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków, 1998; Rachuba A. Kancelarie pieczętarzy WKsL w latach 1569—1765 // Lietuvos Metrika: 1991—1996 metų tyrinėjimai. Vilnius, 1998; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 1, 4. Warszawa, 2003—04; Груша А.І. Канцылярыя Вялікага княства Літоўскага 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. Мн., 2006.

***Аляксандр Груша.***

**«Пісцовая кніга былога Пінскага старавства»** («Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561—1566 годах пинским и кобринским старостою Лаврином Войною»), інвентар *Пінскага старавства* 1560-х г., выдадзены ў 2 частках Віленскай археагр. камісіяй у 1874. Выданне зроблена паводле копіі 1622 з Віленскага цэнтр. архіва стараж. актаў на польскай мове з паралельным перакладам на рус. мову. Арыгінальная назва дакумента не захавалася. У пачатку



інвентара змешчаны лісты караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста пінскаму старасце С.Давойне і насельніцтву Пінскага стараства з паведамленнем аб правядзенні новай *валочнай памеры* гэтага дзярж. ўладання. Правядзеннем памеры кіраваў гаспадарскі дваранін Л.Война (пазней пінскі староста). У інвентары пералічаны зямельныя надзелы мяшчан Пінска і Нобеля, сялян Пінскай, Зарэчнай і Вядскай валасцей, землі гаспадарскіх фальваркаў. Надзелы былі нанава перамераны на валокі, маргі і пруты, вызначаны падаткі і павіннасці з залежнага насельніцтва на карысць скарбу, зыходзячы з якасці глебы. У канцы змешчана апісанне замены некаторых зямель правасл. святароў і шляхты на гаспадарскія землі з мэтай ліквідаваць цераспалосіцу. Выданне забяспечана прадмовай С.В. Шаўковіча, дзе зроблены крыніцазнаўчы аналіз інвентара, на яго падставе прыведзены звесткі пра Пінскае староства, катэгорыі яго насельніцтва (асадных, цяглых і чыншавых сялян, агароднікаў, асочнікаў, бортнікаў, баброўнікаў і інш.), пра цэрквы і вуліцы Пінска; асветлены асн. палажэнні валочнай памеры ў ВКЛ. Ёсць паказальнікі асабовых імён, геаграфічных назваў, прадметны. Выданне — важная крыніца для даследавання гаспадарчай гісторыі, гіст. геаграфіі, этнаграфіі, анамастыкі.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Пісцовая кніга Гродзенскай эканоміі»** («Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями»), комплекс гаспадарча-ўліковай і інш. дакументацыі *Гарадзенскай эканоміі* сярэдзіны 16—сярэдзіны 18 ст., выдадзены ў 1881—82 Віленскай археагр. камісіяй у 2 частках Дакументы ўзяты з актавых кніг Віленскага цэнтр. архіва стараж. актаў, на польск. мове (1 дакумент на бел. мове). У частцы 1 змешчаны «Рэестр памеры валок, гарадоў і Гарадзенскай валасці...», складзены ў 1558 спраўцам гарадзенскіх велікакняжацкіх двароў С.*Дыбоўскім* і гаспадарскім дваранінам Л.Войнам. У дакуменце (пачатак адсутнічае) зафіксавана рэвізія *валочнай памеры* ў эканоміі, праведзенай на падставе *«Уставы на валокі» 1557*. У ім пералічаны сял. гаспадаркі з пазначэннем колькасці зямлі і павіннасцей 26 войтаўстваў, мяшчанскія надзелы ў мястэчках Масты, Новы Двор, Бержнікі, землі велікакняжацкіх двароў. У частцы 2 змешчана інвентарнае апісанне гарадзенскіх замкаў і велікакняжацкага двара Гарадніца (сярэдзіна 17 ст.), «Рэестр валочнай памеры горада і мястэчак, воласці і ўсіх двароў, якія належаць да Гарадзенскага замка» (складзены ў 1550—60-я г. Дыбоўскім і Войнам і зміяшчае пералік пляцаў Гародні, зямель некаторых гаспадарскіх сёл; надрукаваны з копіі 1745), інструкцыя Уладзіслава IV рэвізорам эканоміі К.Белазору і Т.Піўніцкаму (1639), «Генеральная ўстава Гарадзенскай эканоміі» (1680), «рэвізія» дакументаў г. Гародня, гар. пляцаў і прыбыткаў (1675?), «рэвізія» лясніцтваў эканоміі (1764), вытрымкі з «рэвізіі» эканоміі з пералікам каралеўскіх прывілеяў мястэчкам 16—17 ст., апісанне мітрапаліцкай юрыдыкі ў Гародні (з інвентароў 1680 і 1712), камісарскі дэкрэт па зямельных спрэчках у эканоміі (1754), дакументацыя валочнай памеры гарадоў Бранска і Суража з іх валасцямі (складзена ў 1560-я г. С.Дзевялтоўскім-Скочкам і А.Дыбоўскім), ліст Жыгімонта II Аўгуста да Войны, акты размежавання зямель Супрасльскага манастыра (1696, 1698). У выданні змешчана прадмова С.В.Шаўковіча, дзе апісаны гарадзенскія замкі і сам горад, ахарактарызаваны катэгорыі насельніцтва эканоміі і іх павіннасці. Ёсць паказальнікі імён, геаграфічных назваў, рэчаў. Выданне мае вял. значэнне для даследавання сац.-эканам. гісторыі Беларусі, гіст. геаграфіі, этнаграфіі, анамастыкі.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерк по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Пісцовая кніга Пінскага і Клецкага княстваў»** («Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г.»), дакументацыя *валочнай памеры* сярэдзіны 16 ст. ў Пінскім і Клецкім княствах каралевы польскай і вял. княгіні літоўскай Боны, выдадзеная Віленскай археаграфічнай камісіяй у 1884. Арыгінальная назва «кнігі», якая захоўвалася ў Віленскім цэнтр. архіве стараж. актаў — «Рэестр памеры зямель на валокі паветаў і таксама княстваў Пінскага, Клецкага...». Валочная памера праведзена па загадзе Боны старастам бел. уладанняў каралевы С.Хвальчэўскім, непасрэднымі яе выканаўцамі былі Я.Гарэцкі і мернікі Я.Дыбоўскі і Б.Міхновіч. Новымі адзінкамі вымярэння (валокамі, маргамі, прутамі) былі перамераны гар. землі — вулічныя пляцы, агароды, палявыя надзелы — у Пінску, Моталі, Нобелі, Клецку, Сіняўцы, землі велікакняжацкіх двароў і сёл Пінскага і Клецкага княстваў (паветаў), Вядскай воласці. Пералічаны сял. гаспадаркі з пазначэннем прозвішчаў гаспадароў і памерамі зямельных надзелаў. У большасці выпадкаў межы надзелаў мяшчан і сялян засталіся ранейшымі. У час памеры зроблена ацэнка якасці зямлі, вызначаны адпаведныя павіннасці розных катэгорый насельніцтва (мяшчан, сялян, бортнікаў, баброўнікаў, служылых татараў і інш.). Асобна ў «Рэестры» вылучаны раздзелы з апісаннем замены некаторых зямель правасл. і каталіцкіх святароў і шляхты на гаспадарскія землі, праведзенай для ліквідацыі цераспалосіцы. «Рэестр» — адзін з першых дакументаў аб правядзенні валочнай памеры на Беларусі, з'яўляецца каштоўнай крыніцай для даследавання гаспадарчай гісторыі, гіст. геаграфіі, этнаграфіі, анамастыкі. «Рэестр» надрукаваны на мове арыгінала (польскай). Выданне забяспечана прадмовай К.І.Сніткі, дзе дадзена характарыстыка помніка і валочнай памеры ў ВКЛ; ёсць імянны, геаграфічны і прадметны паказальнікі.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

***Валерый Пазднякоў.***

**пісцовыя кнігі**, зводныя дакументы сістэматычных гаспадарчых апісанняў у Расіі ў 15—17 ст. Найб. раннія з П.к., што захаваліся, — наўгародскія канца 15 ст.; апошняе апісанне распачата ў 1684—85 (не скончана). П.к. служылі падставай для падатковага зямельнага абкладання — сошнага пісьма. Паступова яны рабіліся сродкам умацавання феад. землеўладання і запрыгоньвання сялян. П.к., пачатыя

ў 1581 і скончаныя ў 1592—93, атрымалі значэнне асн. дакумента, што вызначаў прыналежнасць сялян пэўнаму ўласніку. П.к. складалі спец. камісіі з пісцоў і пад'ячых, якіх урад дасылаў з Масквы на месцы. Іх складанне вялося па населеных пунктах: горад (яго ўмацаванні, цэрквы, крамы, двары, насельніцтва і г.д.), павет, стан, воласць; асобна апісваліся кожнае сяло і вёска, ворная зямля, сенажаці, лясы.

На Беларусі П.к. складаліся ў 1560—70-я г. на тэр. Полацкага ваяв., захопленага рас. войскам у час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У складзе Метрыкі ВКЛ захаваліся «Татрадь, в ней писаны рубежи городу Полотцку и Полотцкому повету...» (1563—71), П.к. валасцей Няшчэрда (1570, 1571—72, 1573), Азярышчы і Усвяты (1567, 1570, 1571, 1573), Пакроўскай вол. (1570, 1571), Полацкага пав. (1570, 1571). У «Татраде» падрабязна апісаны межы Полацкага пав., які цар Іван IV імкнуўся ў ходзе перагавораў з ВКЛ пакінуць у складзе Маскоўскай дзяржавы, адзначаны сёлы і вёскі з пазначэннем іх уласнікаў, цэрквы, пакінутыя вёскі. У астатніх П.к. пералічаны новыя рас. ўласнікі зямель на Полаччыне, іх вёскі з пазначэннем колькасці двароў, ворнай зямлі, сенажацяў, лясоў, рыбных угоддзяў, а таксама пусткі; у некаторых выпадках названы павіннасці мясцовага насельніцтва. Усяго зроблена апісанне 11 валасцей павета, названа каля 1500 населеных пунктаў і пустак. Найб. змястоўныя з гэтых П.к. надрукаваны Рус. геаграфічным таварыствам у выданні «Пісцовыя кнігі Маскоўскай дзяржавы» («Писцовые книги Московского государства», ч. 1, аддзяленне 2; 1877). «Перапісныя» кнігі (з паіменным пералічэннем мужчынскага насельніцтва) складаліся рас. урадам у 1650—60-я г. на тэр. Беларусі, занятай у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*; не апублікаваны. У 1870—80-я г. пад штучнай назвай «П.к.» Віленская археагр. камісія выдавала дакументацыю валочнай памеры на Беларусі 16 ст.

*Літ.*: Оглоблин Н. Объяснительная записка к карте Полоцкого повета во 2-й половине XVI-го в. // Сб. Археол. ин-та. СПб., 1880. Кн. 3—4; Веселовский С.Б. Сошное письмо. Т. 1—2. М., 1915—16; Мерзон А.Ц. Писцовые и переписные книги XV—XVII вв. М., 1956; Карпачев А.М. Русские переписные книги как источник для демографического изучения городов Белоруссии второй половины XVII в. // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971; Дзярновіч А. Прызабытая публікацыя матэрыялаў Метрыкі ВКЛ // METRICIANA. Мн., 2001. Т. 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**піўнічы**, урад (пасада) у ВКЛ. Загадваў велікакняжацкімі піўніцамі, сачыў за якасцю і пастаўкамі піва да стала вял. князя. Першы вядомы П. — Мікіта Мікалаевіч (1546).

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Пічэта** Уладзімір Іванавіч [9(21).10.1878, г. Палтава, Украина—23.6.1947], гісторык-славіст. Акадэмік АН БССР (1928), АН СССР (1946, чл.-кар. 1939). Заслужаны праф. Бел. рэспублікі (1926), заслужаны дзеяч навукі Узб.ССР (1943). Скончыў Маскоўскі ун-т (1901). Працаваў настаўнікам гімназіі на Украіне. З 1905 у Маскве, у 1910—11 прыват-дацэнт, у 1918—22 праф. Маскоўскага ун-та. У лют. 1918 абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Аграрная рэформа Жыгімонта-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве». Адзін са стваральнікаў і старшыня праўлення Бел. навук.-культ. таварыства ў Маскве (1918—19). Адначасова чытаў курс лекцый «Гісторыя беларускага народа» ў Бел. нар. ун-це ў Маскве. У 1920—21 эксперт на сав.-польскай мірнай канферэнцыі ў Рызе. Па прапанове ўрада БССР узначаліў Маскоўскую камісію па арганізацыі БДУ, з ліп. 1921 рэктар БДУ. Даследаваў гісторыю Украіны, Польшчы, Чэхіі, Сербіі, Балгарыі, Літвы, праблемы гісторыі Беларусі, ВКЛ і Расіі 16—20 ст. Апублікаваў каля 150 прац па гісторыі, гістарыяграфіі, археалогіі, архівазнаўстве, краязнаўстве, гісторыі права Беларусі. Вял. значэнне надаваў прапагандзе і папулярызацыі бел. мовы і л-ры, падтрымліваў сяброўскія і творчыя сувязі з Я.Купалам, Я.Коласам, М.Гарэцкім, З.Бядуляй, Ц.Гартным і інш. дзеячамі бел. культуры. Аўтар прац «М.Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння» (1922), «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны» (1924), «Scoriniana» (1926). П. адзін з арганізатараў Інбелкульта (аўтар яго статута) і АН БССР. У працы «Літоўска-Руская дзяржава» (1910) разгледзеў пытанне пра ўключэнне бел. і ўкр. зямель у склад ВКЛ, адзначаў, што большая частка іх была далучана не насільна. У 1920-я г. адмовіўся ад тэрміна «Літоўска-Руская дзяржава» і замяніў яго на «Літоўска-Беларуская дзяржава». У апошнія гады карыстаўся назвай «Вялікае княства Літоўскае». Складванне бел. народнасці датаваў 14—16 ст., падкрэсліваў вырашальную ролю сац.-эканам. фактараў у фарміраванні і развіцці этнічнай супольнасці беларусаў, адзначаў этнічную роднасць бел., рус. і ўкр. народаў. З імем П. звязана арганізацыя архіўнай справы ў БССР. У 1929 пачаліся ганенні на некаторых акадэмікаў-гісторыкаў, была сфабрыкавана т.зв. «акадэмічная справа». Ініцыятарам яе выступіў акад. М.М.Пакроўскі. П. супрацьстаяў школе Пакроўскага. 13.9.1930 П. арыштаваны, яго абвінавацілі ў вялікадзяржаўным шавінізме, бел. буржуазным нацыяналізме і празаходняй арыентацыі. У жн. 1931 сасланы на 5 гадоў у г. Вятка, у чэрв. 1934 месца ссылкі было заменена на г. Варонеж, дзе ён працаваў праф. у пед. ін-це. У 1935 справа П. перагледжана, ён пераехаў у Маскву, выкладаў у ВНУ. З 1937 працаваў у Ін-це гісторыі АН СССР, дзе з 1939 узначальваў сектар славяназнаўства, адначасова быў заг. кафедры зах. і паўд. славян Маскоўскага ун-та. З 1939 працаваў над 3-томнай гісторыяй Польшчы (3-і т. застаўся незавершаным). У 1941 разам з ін-там эвакуіраваны ў г. Ташкент, дзе апублікаваў шэраг патрыятычных артыкулаў, а таксама даследаванняў па гісторыі Узбекістана. У 1944 апублікаваў працы па гісторыі гарадоў Беларусі: «Мінск», «Магілёў», «Віцебск». У 1946 разам з акадэмікам Б.Дз.Грэкавым заснаваў і стаў намеснікам дырэктара Ін-та славяназнаўства АН СССР. Аўтар больш як 500 прац па гісторыі слав. народаў СССР і замежных краін. Сярод яго вучняў шмат даследчыкаў з розных краін Еўропы, у т.л. бел. вучоныя: К.І.Кернажыцкі, М.М.Улашчык, А.В.Бурдзейка, Т.І.Забела, Д.А.Дудкоў, В.Д.Дружчыц і інш. Чл. ЦВК БССР ў 1921—30.

*Тв.*: История крестьянских волнений в России. Мн., 1923; Гісторыя Беларусі. Ч. 1. М.; Л., 1924; Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии. М., 1940; Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-

Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Белоруссия и Литва, XV—XVI вв. М., 1961; Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым. Мн., 1991.

*Літ.*: Славяне в эпоху феодализма. 100-летию со дня рождения В.И.Пичеты. М., 1978; Академик В.И.Пичета: Страницы жизни. Мн., 1981; В.И.Пичета: Биобиблиогр. указ. Мн., 1978; Брачев В.С. «Дело историков» 1929—31. СПб., 1997; Иоффе Э.Г. Академик В.И.Пичета (1878—1947) // Новая и новейшая история. 1996. № 5.

***Уладзімір Вернігораў.***

**піяры**, манахі каталіцкага манаскага ордэна (лац. Patres scholarum piarum айцы набожных школ). Заснаваны ў 1597 іспанскім святаром Іосіфам (Хасе) Каласанцам, у 1621 зацверджаны рымскім папам Грыгорыем XV. На чале ордэна стаялі генерал, 4 асістэнты і 4 кансультанты. Мэтай П. было выхаванне і навучанне юнацтва праз стварэнне шырокай сеткі сваіх *калегіумаў*, а не паліт. ці місіянерская дзейнасць. У 1641 кароль Уладзіслаў IV папрасіў Каласанцу прыслаць П. у Рэч Паспалітую, каб пазбавіцца ад манаполіі *езуітаў* у галіне адукацыі. У 1642 П. прыбылі ў Варшаву. У 1736 у краіне створаны 2 правінцыі ордэна — Каронная (Польская) і Літоўская. Піярскі калегіум узначальвалі рэктар (займаўся адм. справамі) і прэфект (загадваў вучэбнай часткай). Вучэбны курс калегіума падзяляўся на 7 класаў: праформа (вучылі пісаць, чытаць і пачаткам арыфметыкі), інфіма (тыя ж самыя прадметы і катэхізіс), граматыка (лацінь і пераклады з яе, матэматыка), сінтаксіс (лацінь, пераклады з яе і напісанне на ёй лістоў), паэзія (пераклады з лаціні, красамоўства), рыторыка (рыторыка, лацінь, гісторыя) і філасофія (логіка, метафізіка, этыка, геаметрыя). Выкладчыкі 1—5-га класаў мелі званне магістраў, а 6—7-га — прафесараў. Навучанне было бясплатнае, плата бралася толькі за канвікт (інтэрнат). Найб. збяднелыя вучні ўтрымліваліся за кошт ордэна, але павінны былі выконваць шэраг прац па школьнай гаспадарцы. Падабенства вучэбнай праграмы П. на езуіцкую і менш строгая дысцыпліна рабілі іх навучальныя ўстановы папулярнымі ў Рэчы Паспалітай. У 1772 віленскі біскуп К.К.Бжастоўскі запрасіў П. у Вільню, а мерацкі староста А.Сапега ахвяраваў ім палац і 2 інш. мураваныя будынкі. Кляштары і рэзідэнцыі П. пры падтрымцы магнатаў і шляхты з'явіліся таксама ў Шчучыне (1726), Воранаве і Геранёнах (1730), Зэльве (1739), Лужках (1741), Віцебску (1751), Дарагічыне (1773), дзе хутка ўтвараліся і калегіумы. Значныя перашкоды стварэнню сеткі піярскіх устаноў чынілі езуіты, якія бачылі ў П. сваіх канкурэнтаў. Езуіты дамагліся закрыцця піярскіх калегіумаў у Вільні, Геранёнах, Воранаве (пераведзены ў 1756 у Ліду), адкрывалі свае школы ўсюды, дзе ўжо існавалі піярскія ўстановы, пастаянна падавалі скаргі на П. у суды і інш. Для павышэння канкурэнтаздольнасці піярскай адукацыі пад кіраўніцтвам правінцыяла Кароннай правінцыі С.*Канарскага* ў 1740—50-я г. праведзена рэформа піярскіх навучальных устаноў (у 1750—60-я г. яна закранула і Літ. правінцыю): былі пашыраны курсы матэматыкі, прыродазнаўчых і свецкіх гуманітарных навук, уведзены французская і нямецкая мовы і інш. Выкладаць новыя прадметы павінны былі спецыяльна падрыхтаваныя асобы па новых падручніках (перакладзеных ці напісаных П.), тэрмін навучання складаў 6 гадоў. Значны ўплыў на вучэбныя праграмы П. у Рэчы Паспалітай зрабіла французская культура, шэраг прадметаў выкладаўся па-французску, лепшыя выхаванцы накіроўваліся на стажыроўку ў Францыю. Пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў і стварэння *Адукацыйнай камісіі* П. адыгралі вял. ролю ў рэфармаванні сістэмы асветы краіны ў 1770—80-я г.: падрыхтавалі вял. колькасць праектаў рэформ, пісалі падручнікі (А.Каменскі, А.Паплаўскі, М.Пракаповіч). За заслугі ў галіне адукацыі П. было дазволена ў 1775 набываць новыя зямельныя ўладанні, у 1783 іх школы ў Польшчы вылучаны ў асобную акругу (вучылішчы П. у ВКЛ увайшлі ў яе склад у 1790). У канцы 18 ст. на тэр. ВКЛ дзейнічала 18 кляштараў П. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі і стварэння Віленскай навучальнай акругі становішча П. змянілася нязначна, у 1804 піярскія навучальныя ўстановы былі ўключаны ў гэту акругу і атрымалі статус павятовых вучылішчаў. Адкрываць новыя школы П. не дазвалялася (выключэннем было заснаванне ў 1822 Полацкага вышэйшага піярскага вучылішча). Піярскія навучальныя ўстановы працягвалі займаць адно з вядучых месц у акрузе: у 1803 у П. вучыліся 1234 юнакі, у 1816 — 1245, у 1822 — 1401. П. займалі шэраг прафесарскіх пасад у Віленскім ун-це: С.Юндзіл, Ф.Серафімовіч, Ф.Галанскі. У 1831—34 пасля паўстання 1830—31 навучальныя ўстановы П. былі пераўтвораны ў 5-класныя свецкія павятовыя вучылішчы ці зачынены. Літ. правінцыя П. скасавана ў 1843.

*Літ.*: Kot S. Reforma szkolna Stanisława Konarskiego. Kraków, 1923; Hedemann O. Szkoły Walerjanowskie x.x. pijarów łużeckich. Wilno, 1937; Beauvois D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich, 1803—1832. T. 1—2. Rzym; Lublin, 1991; Stępień R. Współpraca pijarów z Komisją Edukacji Narodowej na terenie Korony // Acta Universitatis Wratislaviensis. № 1565. Prace pedagogiczne. 102. Wrocław, 1994; Самусік А.Ф. Дзейнасць манаскіх ордэнаў у галіне асветы на Беларусі ў першай трэці XIX ст. // Гісторыя: праблемы выкладання. 1998. № 1.

***Андрэй Самусік.***

**пленіпатэнт** (ад лац. pleni potens паўнамоцны), у ВКЛ у 17—18 ст. даверанная асоба ў судзе, якая прадстаўляла адзін з бакоў.

**плябан**, гл. *Пробашч.*

**Плятэры** (Броэль-Плятэры), шляхецкі род уласнага герба ў Рэчы Паспалітай. Паходзяць з Вестфаліі, адкуль у 15 ст. перасяліліся ў Інфлянты, дзе валодалі замкам Броэль. У 1829 род П. у Рас. імперыі прызнаны ў графскай годнасці. Найб. вядомыя:

Генрык, сын Генрыка. У 1599 атрымаў ад Жыгімонта III Вазы маёнткі Асон і Плясон (Плясына, Існаўды) у Інфлянтах. Меў сыноў Готарда Яна (пачынальнік літ. лініі роду), Андрэя і Вільгельма (пачынальнік жамойцкай лініі).

Готард Ян (?—1664), сын Генрыка. Маёр, вызначыўся ў бітвах за Смаленск у 1633 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* і ў 1654 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1641 атрымаў ад Уладзіслава IV пацвярджальны прывілей на ўсе дадзеныя інфлянцкімі магістрамі маёнткі. З яго сыноў былі ваяводамі інфлянцкімі Ян Андрэй (каля 1626—24.2.1696) з 1695 і Фабіян (каля 1628—1707) з 1705.

Фердынанд Фабіян Вільгельм (каля 1678—22.7.1739), сын Яна Андрэя. Займаў пасады ў Інфлян-

тах, лоўчы ВКЛ у 1735—39, маршалак дворны ВКЛ у 1739.

Ян Людвік (?—24.11.1736), сын Яна Андрэя. Пасол на соймы 1718, 1729, ваявода інфлянцкі з 1735. Валодаў вял. маёнткамі, у т.л. г. Краслава.

Канстанцін Людвік (1722—31.3.1778), сын Яна Людвіка. Вял. пісар ВКЛ у 1746—54, кашталян полацкі ў 1754—58, ваявода мсціслаўскі ў 1758—70, кашталян троцкі з 1770; маршалак Трыбунала ВКЛ у 1754.

Юзаф Вінцэнт (11.7.1745, г. Краслава—паміж 1 і 6.1.1806), сын Канстанціна Людвіка. Генерал-лейтэнант у 1775—91, пісар польны ВКЛ у 1771—83, кашталян троцкі з 1793; староста берасцейскі ў 1770—77, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1774, чл. Пастаяннай Рады ў 1793—94. У 1775 заснаваў у Талачыне родавую камандорыю Мальтыйскага ордэна.

Казімір Канстанцін (1749—4.8.1807), сын Канстанціна Людвіка. Абозны ВКЛ у 1787, кашталян троцкі ў 1790—93, падканцлер ВКЛ з 1793; чл. Пастаяннай Рады ў 1776—88 і 1793—94. Адзін з актыўных дзеячаў Таргавіцкай канфедэрацыі. У 1774 заснаваў у Кальніку родавую камандорыю Мальтыйскага ордэна. Аўтар дзённікаў падарожжа караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Канеў на сустрэчу з Кацярынай II у 1787 і падарожжа ў Пецярбург у 1792 (выдадзены Ю.І. Крашэўскім у 1860 і 1859), публіцыстычных твораў. Яго сын Міхал (28.12. 1777—1862 або 1863) узяў шлюб з апошняй прадстаўніцай роду баронаў Зіберг цу Вішлінг (Ізабелай Геленай) і прыняў на сябе і нашчадкаў прозвішча Плятэр-Зіберг.

Частка родавога архіва П. захоўваецца ў Нац. гіст. архіве Беларусі.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Плятэрыс** (Plateris) Аляксандрас (20.12.1913, мяст. Швекшна Шылуцкага р-на, Літва—14.10.1997), літоўскі гісторык права, сацыёлаг. Д-р філасофіі (1961). З роду *Плятэраў*. Вучыўся ў Каўнаскім (1932—36) і Венскім (1937—38) ун-тах. У 1938—39 працаваў у Каўнаскім, да 1941 у Вільнюскім ун-це, пасля выкладаў у гімназіі ў Швекшні. З 1944 у Германіі, з 1949 у ЗША. У 1953—55 вывучаў сацыялогію ў Чыкагскім ун-це. У 1955—57 працаваў у Цэнтры даследавання насельніцтва, у 1957—58 у Ін-це параўнальнага права. З 1958 у Вашынгтоне, на працягу 20 годоў працаваў у Нац. цэнтры статыстыкі аховы здароўя. У 1956 стаў адным з заснавальнікаў Літ. гіст. таварыства, у 1967—69 і 1973—75 старшыня Ін-та літуаністыкі. Даследаваў права ВКЛ. Аўтар кнігі «Прававыя адносіны Лівоніі і Курземе з Літвой (XVI—XVIII ст.)» [«Teisiniai Livonijos ir Kuršo santykiai su Lietuva (XVI—XVIII amž.)», Каўнас, 1938], артыкулаў у перыядычным друку, энцыклапедычных выданнях.



Герб **«Побуг»**.

**«Побуг»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 160 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Грабоўскія, Доўнар-Запольскія, Канецпольскія, Керсноўскія, Станішэўскія, Філіповічы, Чыжэўскія. У блакітным полі выява сярэбранай падковы з пастаўленым на ёй залатым кавалерскім крыжам; клейнод — над прылбіцай з каронай палова сярэбранага харта. У першапачатковым варыянце герб меў чырвонае поле. Вядомы з канца 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**позва**, позыў да права, пісьмовы выклік на суд, які рабіў бок пазадовы боку пазванаму. У ВКЛ з П. пачынаўся судовы працэс. Складалася П. *пісарам* або самой зацікаўленай асобай, змацоўвалася дзярж. *пячаткай* і подпісам пісара. Выклік у суд рабіўся ад імя вял. князя (П. земская) або ад імя старасты (П. замкавая). Уручалася П. за 4 тыдні да пачатку судовага пасяджэння, а калі *возны* не мог перадаць яе пазванаму асабіста — за 6 тыдняў. У выпадках, якія патрабавалі неадкладнага разгляду, тэрмін скарачаўся да 10 дзён. Пра ўручэнне П. возны падаваў суду рэляцыю, за ўручэнне П. яму належала пэўная плата. Яўка па П. была абавязковай. За няяўку бок пазваны караўся штрафам (гл. *Нястаннае*), бок пазадовы мог прайграць справу. П. маглі быць і вуснымі, асабліва ў грамадзянскіх справах, калі возны прыводзіў адказчыка ў суд.

*Генадзь Маслыка.*

**Полацк** (цяпер горад, цэнтр Полацкага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Полацкага княства*, пазней намесніцтва, *Полацкага ваяводства*, пры ўпадзенні р. Палата ў Дзвіну. Першае летапіснае ўпамінанне датуецца 862. Месцазнаходжанне першапачатковага П. канчаткова не высветлена, аднак большасць сучасных даследчыкаў лічыць, што горад узнік на месцы гарадзішча, размешчанага на правым беразе р. Палата прыкладна за 0,8 км



Герб **Полацка**.

ад яе вусця. Паселішча (відаць, неўмацаванае) існавала тут ужо ў 1-й пал. 1 тыс. н.э. Прыблізна ў пач. 8 ст. ўзнікла гарадзішча. Напрыканцы 1 тыс. н.э. П. быў племянным цэнтрам полацкіх крывічоў. Пасля ўзяцця і знішчэння горада паміж 970 і 980 наўгародскім кн. Уладзімірам Святаславічам у 11 ст. гарадскія ўмацаванні перанесены на новае месца — мыс непасрэдна пры ўпадзенні Палаты ў Дзвіну, дзе пабудаваны драўляна-земляны замак (з 16 ст. называўся Верхнім). У 11—13 ст. склаліся асн. раёны П.: Вялікі пасад (у міжрэччы Палаты і Дзвіны), Запалоцце і Задзвінне. Як сталіца княства, якое праводзіла актыўную знешнюю палітыку, неаднаразова станавіўся аб'ектам ваенных паходаў рус. князёў. У 1069



План перапланіроўкі **Полацка**. 1793.

кіеўскі вял. кн. Ізяслаў Яраславіч здолеў выгнаць з П. Усяслава Брачыславіча і на 2 гады узяць горад пад свой кантроль. У 1127 кааліцыя рус. князёў, арганізаваная вял. кн. Мсціславам Уладзіміравічам, зноў прымусіла палачан скарыцца. У 1222 заваяваны смалянамі, аднак у 1232 пасаджаны тут на княжанне сваяк смаленскага кн. Мсціслава Давыдавіча Святаслаў Мсціславіч на чале палачан здзейсніў выправу на Смаленск і захапіў яго. У міжусобны перыяд барацьбу за П. вялі таксама князі з мясц. дынастыі. У гэтым змаганні яны імкнуліся заручыцца падтрымкай гар. жыхароў, бо для замацавання на полацкім прастоле для гэтых князёў вырашальнае значэнне мела пазіцыя гар. абшчыны, выказаная на вечавым сходзе. Усталяванне ў П. першага князя з літ. дынастыі *Таўцівіла* (1250-я г.) таксама, відаць, было замацавана пагадненнем паміж палачанамі і князем. Існавала практыка афармлення такіх пагадненняў у выглядзе пісьмовага дагавора («ряда»). Трапіўшы ў сферу ўплываў ВКЛ, П. актыўна ўдзельнічаў у рэалізацыі яго знешняй палітыкі ў дачыненні да суседніх зямель: Інфлянтаў, Вял. Ноўгарада, Пскова, Смаленска. У 1333 і 1334 быў мэтай няўдалых паходаў інфлянцкіх крыжакоў. У 1348 палачане на чале са сваім кн. *Нарымонтам* удзельнічалі ў бітве на р. Стрэва. Жыхары П. аказвалі падтрымку свайму апошняму кн. *Андрэю Альгердавічу*, у т.л. у ходзе ваенных дзеянняў 1386—87. Быў узяты войскам ВКЛ на чале са Скіргайлам вясной 1387. У час змагання за ўладу ў ВКЛ паміж Скіргайлам і Вітаўтам дабраахвотна перайшоў на бок апошняга ў 1390. Асн. правы і прывілеі жыхароў П. былі юрыдычна замацаваны ў абласным прывілеі Полацкай зямлі, які быў выдадзены Вітаўтам, а потым пацвярджаўся і пашыраўся інш. вял. князямі літоўскімі і каралямі польскімі (гл. *Полацкае права*). У адказ на паход Вітаўта на Пскоўшчыну ў пач. 1406 летам таго ж года вытрымаў 3-дзённую аблогу пскоўскага войска. Полацкая харугва прымала ўдзел у *Грунвальдскай бітве 1410*. У феад. вайну 1432—39 П. рашуча падтрымліваў Свідрыгайлу, быў адной з гал. яго апор. Пазбаўлены дапамогі звонку, быў вымушаны здацца Жыгімонту Кейстутавічу адным з апошніх у 1436. На кароткі час у 1440 быў захоплены кн. Ю.С.Мсціслаўскім. 4.10.1498 атрымаў магдэбургскае права. З 16 ст. гербам горада была выява гандлёвага карабля з разгорнутымі ветразямі. Пад час войн ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай 1-й пал. 16 ст. П. быў аб'ектам шматлікіх паходаў маскоўскіх ваявод. Вытрымаў працяглыя аблогі ў 1501 (1502?), зімой 1512—13, у 1513, 1514, 1518, у выніку чаго гандлёва-рамесныя пасады былі спалены 3 ці 4 разы, але кожны раз адбудоўваліся. 27.7.1518 пад сценамі П. адбылася буйная бітва, у выніку якой супольнымі намаганнямі войска ВКЛ і пры ўдзеле палачан маскоўскія ваяводы былі разбіты, а аблога горада знята. Пасля серыі ваенных канфліктаў развіццё П. да сяр. 16 ст. стабілізавалася. Згодна з данымі за 1552, насельніцтва горада налічвала каля 12 тыс. чал. П. быў адным з найбуйнейшых гар. цэнтраў ВКЛ,

канкурыраваў са сталіцай — Вільняй. У ходзе *Інфлянцкай вайны 1558—82* узяты войскамі Івана IV пасля 2-тыднёвай аблогі 15.02.1563 (гл. *Полацка абарона 1563*). У 1563—64 побач з Верхнім замкам для лепшага кантролю над горадам новыя ўлады пабудавалі яшчэ адзін — Ніжні (Стралецкі) замак. Разам з часткай Полацкага ваяв. знаходзіўся пад уладай Расіі да ўзяцця войскамі Стафана Баторыя ў 1579. З-за наступстваў Інфлянцкай вайны, а таксама ў сувязі з пераарыентацыяй гандлёвых шляхоў з канца 16 ст. П. паступова страціў дынаміку развіцця і ўступіў у перыяд стагнацыі. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* у выніку нечаканага нападу рас. ваявод узяты і спалены 13.6.1633. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* П. быў вымушаны здацца рас. войску пад камандаваннем В.П.Шарамецева 17.6. 1654. Вернуты Рэчы Паспалітай згодна з умовамі Андросаўскага перамір'я 1667. Належаў да ліку самых пацярпелых гарадоў ВКЛ. За гады вайны яго насельніцтва скарацілася з 1636 да 116 дымоў (на 93 %) і склала ўсяго каля 700 жыхароў. У *Паўночнай вайне 1700—21* у 1704—05 у раёне П. была сканцэнтравана буйная групоўка рас. войск, у сувязі з чым горад наведаў цар Пётр I.

З самых ранніх этапаў існавання эканам. значэнне П. было абумоўлена перш за ўсё вялізнай роллю, якую ён адыгрываў у міжнар. гандлі. Выконваў у ім пераважна транзітныя і пасрэдніцкія функцыі. Быў звязаны шчыльнымі кантактамі з гарадамі ВКЛ і замежных дзяржаў: Вільняй, Віцебскам, Смаленскам, Вял. Ноўгарадам, Псковам, Рыгай. Асабліва інтэнсіўны гандаль ішоў па Дзвіне. Са стараж.-рус. часоў П. вывозіў воск і футра, увозячы соль, металы, тканіны. У 2-й пал. 15 ст. ў структуры полацкага экспарту з'явіліся збожжа і лес, доля якіх павялічвалася. Захаваліся дагаворы П. (разам са Смаленскам і Віцебскам) з Рыгай і Гоцкім берагам 1229, з Рыгай каля 1340, 1406 і 1478. Вял. князі літоўскія паслядоўна абаранялі гандлёвыя інтарэсы П.,ператварыўшы яго фактычна ў гал. гандлёвы цэнтр усёй паўн. часткі дзяржавы. Полацкія купцы карысталіся шматлікімі прывілеямі і льготамі, у прыватнасці, былі вызвалены ад выплаты мыта па



Медаль, выбіты ў гонар здабычы **Полацка** і Інфлянтаў. 1582.

ўсёй тэр. ВКЛ. Высокага ўзроўню развіцця дасягнулі ў П. рамёствы, сярод якіх пераважалі арыентаваныя на задавальненне патрэб горада і рэгіёна. Прыкметнае месца ў структуры занятках полацкіх мяшчан займала таксама сельская гаспадарка. З 15 ст. прасочваецца працэс фарміравання мяшчанскага стану-саслоўя, які асабліва паскорыўся з наданнем П. магдэбургскага права. У 15—17 ст. полацкае мяшчанства вылучалася высокім сац. статусам, актыўна ўдзельнічала ў грамадска-паліт. жыцці, валодала шматлікімі зямельнымі маёнткамі, з якіх несла ваенную службу. Асн. маса полацкіх мяшчан належала да мясцовага бел. насельніцтва. У сяр. 16 ст. ў П. існавала яўрэйская абшчына.

У складзе ВКЛ П. быў найбуйнейшым рэліг. цэнтрам Беларусі, цэнтрам *Полацкай праваслаўнай архіепархіі* (пасля *Полацкай грэка-каталіцкай архіепархіі*). Тут знаходзілася кафедра епіскапаў (з пач. 15 ст. архіепіскапаў), якія займалі ў правасл. іерархіі ВКЛ 2-е месца пасля кіеўскіх мітрапалітаў. Важнымі асяродкамі царк. жыцця былі шматлікія *Полацкія манастыры* і цэрквы, а з канца 16 ст. — брацтвы.

Культура П. развівалася на аснове багатых і трывалых мясц. традыцый, на якія ўсё больш адчувальны ўплыў аказвалі тэндэнцыі развіцця культуры краін Цэнтр. і Зах. Еўропы. Працягвалася інтэнсіўнае будаўніцтва: некалькі разоў перабудоўваўся *Полацкі Сафійскі сабор*, узводзіліся новыя храмы (у сярэдзіне 16 ст. правасл. цэркваў у горадзе было не менш за 21), будынкі грамадзянскага і інш. прызначэння. Высокі ўзровень мастацтва рукапіснай кнігі знайшоў увасабленне ў *полацкіх евангеллях* 12—14 ст., існаванні *бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора*, бібліятэкарам і ўкладчыкам кніг у якую быў на мяжы 15—16 ст. іераманах Аляксей. Ураджэнцамі П. былі выдатныя дзеячы культуры агульнаеўрапейскага маштабу Ф.*Скарына* і *Сімяон Полацкі*.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) П. (яго асн., правабярэжная частка) у складзе Рас. імперыі, пасля 2-га падзелу (1793) — задзвінская частка.

*Літ.*: Сапунов А.П. Витебская старина. Т. 1—5. Витебск, 1883—88; Полоцкая ревизия 1552 года / Подг. И.И.Лаппо. Москва, 1905; Даўгяла З. Polociae moenia: (Гістарычна-тапаграфічны нарыс полацкіх умацаванняў) // Зап. аддзелу гуманітарных навук Інбелкульту. Працы клясы гісторыі. Мн., 1928. Т. 2; Mienicki R. Stanisław Dowojno, wojewoda połocki // Ateneum Wileńskie. 1937. R. 12; Смоленские грамоты XIII—XIV веков / Подг. Т.А.Сумникова, В.В.Лопатин. М., 1963; Алексеев Л.В. Полоцкая земля: (Очерки истории Северной Белоруссии в IX—XIII вв.). М., 1966; Штыхов Г.В. Древний Полоцк (IX—XIII стст.) Мн., 1975; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1—6 / Подг. А.Л.Хорошкевич. М., 1977—89; Полоцк: Ист. очерк. Мн., 1987; Александров Д.Н., Володихин Д.М. Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII—XVI веках. М., 1994; Тарасаў С.В. Полацк IX—XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998.

***Васіль Варонін.***

**Полацка абарона 1563.** Адбылася ў *Інфлянцкую вайну 1558—82* супраць войска Маскоўскай дзяржавы. Нападзенне на Полацк было запланавана ў вер. 1562, а падрыхтоўка пачалася ў снеж. 1562. Дзякуючы шырокамаштабным мабілізацыйным мерапрыемствам маскоўскаму ўраду ўдалося сабраць не менш чым 60 тыс. вайскоўцаў, без уліку дапаможных сіл. 31.1.1563 маскоўскае войска падышло да Полацка і пачало яго планамерную аблогу. Абаронцы Полацка, спадзеючыся на знешнюю падтрымку, пачалі аказваць супраціўленне у форме абстрэлаў і баявых вылазак. У абарончых мерапрыемствах удзельнічалі полацкая шляхта і мяшчане, а таксама наёмныя жаўнеры гарнізона. Абаронай горада кіраваў полацкі ваявода С.*Давойна*. Войска ВКЛ на чале з гетманам М.*Радзівілам* Рудым не адважылася выступіць на дапамогу Полацка з-за сваёй малалікасці (налічвала толькі 3400 чал.). Пачаўшы са спроб штурму, маскоўскае войска паступова паляпшала свае пазіцыі, акружаючы горад з усіх бакоў. 5 лют. палачане вырашылі правесці перамовы, якія скончыліся безвынікова. 7 лют. да Полацка падышла цяжкая артылерыя.





**Полацка абарона 1563**. Заходнееўрапейская гравюра.




**Полацкае ваяводства**. Медзярыт Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

9 лют. Давойна прыняў фатальнае рашэнне аб спаленні пасада і адыходзе абаронцаў у Полацкі Верхні замак. Пры гэтым былі вымушаны здацца ў палон 11 тыс. жыхароў акругі Полацка. Пажар пасада дазволіў рас. войскам падцягнуць да замкавых сцен цяжкую артылерыю. Яе прысутнасць стала поўнай нечаканасцю для абаронцаў горада. Адчайная спроба адкінуць маскоўцаў далей ад замка, зробленая ў ноч з 12 на 13 лют., не ўдалася. Суцэльны гарматны абстрэл замка на працягу 13—14 лют., а таксама падпальванне замкавых сцен канчаткова вырашылі справу на карысць маскоўскіх войск. У замку разгарэўся пажар, які не даваў магчымасці працягваць супраціўленне. Безнадзейны стан рэчаў вымусіў палачан 15 лют. здацца. Нягледзячы на гарантыі свабоды, маскоўскія ўлады правялі шырокамаштабныя дэпартацыі полацкага насельніцтва ў глыб Маскоўскай дзяржавы. У палоне апынуліся ваявода Давойна і правасл. епіскап Арсеній. На волю былі адпушчаны толькі польскія наёмнікі. Былі забіты ўсе каталіцкія манахі-бернардзінцы, а таксама яўрэі, якія адмовіліся прыняць хрышчэнне. Авалоданне Полацкам маскоўскім войскам было найб. значнай падзеяй на 1-м этапе вайны. Дзякуючы яму Маскоўская дзяржава атрымала моцную стратэгічную перавагу. Становішча ВКЛ істотна пагоршылася. Гэта паслужыла дадатковым аргументам для прыхільнікаў больш цеснай уніі ВКЛ з Польскім каралеўствам.

*Літ.:* Александров Д.Н., Володихин Д.М. Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII—XVI вв. М., 1994; Bogatyrev S. Battle for Divine Wisdom: The Rhetoric of Ivan IV's Campaign Against Polotsk // The Military and Society in Russia, 1450—1917. Leiden; Boston; Köln, 2002; Рукописные памятники. Вып. 9. Книга полоцкого похода 1563 г.: (Исследование и текст). СПб., 2004; Анхимюк Ю.В. Полоцкий поход 1563 года в частных разрядных книгах // Русский дипломатарий. М., 2004. Вып. 10.

***Андрэй Янушкевіч.***

**Полацкае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Ахоплівала тэр. ранейшай Полацкай зямлі, намеснікі якой з пач. 16 ст. (каля 1504) пачалі называцца ваяводамі. Цэнтр — г. *Полацк*. Мела харугву ружовага (паводле інш. звестак — белага) колеру з выявай герба «Пагоня». Карысталася абласнымі прывілеямі, якія ўстанаўлівалі *полацкае права*; ваявода мог прызначацца толькі са згоды мясцовай

НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

*паводле адміністрацыйнага значэння*
- цэнтр ваяводства
- цэнтры валасцей
- іншыя населеныя пункты

*паводле тыпу паселішча*
- ПОЛАЦК — гарады
- Ушачы — мястэчкі
- *Весніцк* — сёлы

*паводле прыналежнасці (у Беларусі, на 1600 г.)*
- дзяржаўныя
- шляхецкія
- праваслаўнай царквы
- каталіцкай царквы

 замкі ў населеных пунктах

 Замкі, пабудаваныя войскамі Расійскага царства на занятай тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і захопленыя войскамі Рэчы Паспалітай у 1579 г.

ГРАНІЦЫ
- дзяржаў
- ваяводстваў
- паветаў
- Полацкага ваяводства

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Тэрыторыя, спрэчная паміж ВКЛ і Расійскім царствам з другой трэці XVI ст.

Важнейшыя дарогі

## ПОЛАЦКАЕ ВАЯВОДСТВА ў другой палове XVI ст.




Аўтары М.Ф.Спірыдонаў, В.М.Цемушаў

МАШТАБ 1:1 000 000



шляхты. У выніку вайны *Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1534—37* ад П.в. да Расіі адышлі воласці Завалочча і Себеж. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у 1563 амаль усё П.в. было занята рас. войскамі; у 1564 большая частка тэрыторыі на Пд ад Дзвіны адваявана ВКЛ і паводле перамір'я 1570 засталася ў яго складзе. У гэты час большасць Лукомскай вол. ўключана ў Аршанскі пав., а ад Менскага ваяв. далучана невял. лясістая тэрыторыя на левым беразе Бярэзіны. Цэнтр. і паўн. часткі П.в. з Полацкам вернуты ў склад ВКЛ у 1579. Пасля гэтага структура кіравання ў ваяводстве прыведзена ў адпаведнасць з адм. рэформай 1565—66 і Статутам ВКЛ 1566: адменена дзеянне абласных прывілеяў (за выключэннем права мясц. шляхты выбіраць ваяводу, пацверджанага дэкрэтам 1569), уведзены пасады кашталяна, суддзі земскага, падкаморага і інш., збіраўся павятовы соймік, на якім выбіраліся 2 паслы на сойм. П.в. не падзялялася на паветы. Большасць яго тэр. на Пн ад Дзвіны займалі слабазаселеныя дзярж. і магнацкія воласці (частка іх у 17—18 ст. перайшла да езуітаў), асн. частка шляхецкіх маёнткаў ляжала на Пд ад Дзвіны. Буйнейшымі паселішчамі былі Асвея, Бешанковічы, Глыбокае, Дзісна, Друя, Лепель, Ула, Ушачы і інш. Пасля вайны *Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* да П.в. далучаны воласці Себеж і Завалочча, у вайну *Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* яны часова заняты рас. войскамі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654—55 рас. армія цалкам заняла П.в., большасць яго тэрыторыі вернута ў ВКЛ у 1658—60. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* Себеж адышоў да Расіі, але ў 1678 зноў далучаны да П.в., што замацавана *«Вечным мірам» 1686*. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) паўн. частка П.в. да Дзвіны з Полацкам адышла да Расіі і ўвайшла ў склад Пскоўскай губерні. Рэшта П.в. існавала да 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793), павятовы соймік збіраўся ў гэты час ва Ушачах.

Ваяводы полацкія: Станіслаў Глебавіч (1505—13), А.М.Гаштольд (1513—19), С.Р.Осцік (1519), П.С.Кішка (1521—32), Я.Ю.Глябовіч (1532—42), С.С.Давойна (1542—73), М.М.Дарагастайскі (1576—97), А.П.Сапега (1597—1613), М.Друцкі-Саколінскі (1613—21), Я.С.Кішка (1621—54), А.Л.Радзівіл (1654), Я.К.Копаць (1658—70), К.Я.П.Сапега (1670—82), Я.С.Агінскі (1682—84), Д.М.Слушка (1686—1713), С.Э.Дэнгаф (1723—28), А.М.Сапега (1754—75), Ю.Сасноўскі (1781—83), Т.Жаба (1784—93).

Кашталяны полацкія: Ю.М.Зяновіч (1566—79), Я.Я.Валмінскі (1579—88), В.Шэмет (1588—97), І.Корсак (1597—1618), М.Б.Зяновіч (1618—21), Я.Корсак-Галубіцкі (1621—25), К.М.Друцкі-Саколінскі (1625—40), Я.А.Вільчак (1640—44), К.Рудаміна-Дусяцкі (1644—54), Я.Сасноўскі (1654—60), Я.Корсак (1660—97), М.К.Пац (1697—1724), К.К.Пац (1724—25), М.Шэмет (1726—36), В.А.Жаба (1736—53), К.Л.Плятэр (1754—58), А.Бжастоўскі (1758—76), Т.Жаба (1776—84), Ю.Сяліцкі (1784—1791), Р.Бжастоўскі (1791—93).

*Літ.*: Оглоблин Н. Объяснительная записка к карте Полоцкого повета во 2-й половине XVI-го в. // Сб. Археол. ин-та. СПб., 1880. Кн. 3—4; Панов В.А. Социальный строй Полоцкой земли по данным «Полоцкой ревизии 1552 г.» // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1915. № 4—5; Пичета В.И. Полоцкая земля в начале XVI в. // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Варонін В. Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст. // Бел. гіст. агляд. 1998. Сш. 1; Спірыдонаў М. Полаччына ў сярэдзіне XVI ст. // Полацкія гіст. запіскі. Наваполацк; Мн., 2004. Т. 1.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Полацкае княства**, дзяржаўнае ўтварэнне, якое існавала ў 10—14 ст. ў басейне Дзвіны і часткова Верхняга Дняпра з цэнтрам у *Полацку*. Сфарміравалася на аснове племяннога княжання полацкіх крывічоў з прыкметным уплывам груп іншаэтнічнага насельніцтва, перш за ўсё балтаў. У пач. 10 ст. знаходзілася ў залежнасці ад вял. князя кіеўскага Алега. Аднаўленне асобнага княжання ў Полацку звязана з кн. Ізяславам (памёр у 1001). Размяшчэнне П.к. на перасячэнні зручных транспартных шляхоў абумовіла выключна важную ролю міжнар. гандлю ў яго гаспадарчай сістэме. Да 13 ст. ён развіваўся ў асноўным па шляху «з варагаў у грэкі», а пазней найб. трывалыя сувязі існавалі з рус. княствамі і краінамі басейна Балтыйскага мора. У гарадах, у першую чаргу ў Полацку, існавала багатае і ўплывовае купецтва. У 14 ст. сярод сялян, відаць, пераважалі даннікі, якія былі гал. пастаўшчыкамі найб. хадавых на зах. рынку футра і воску. З 2-й пал. 14 ст. фіксуецца баярскае землеўладанне. У пач. 13 ст. П.к. практычна спыніла свой удзел у міжусобнай барацьбе на Русі, усё мацней уцягваючыся ў змаганне з зах. суседзямі: немцамі і літоўцамі. У 1203 П.к. ўпершыню ўступіла ў ваенны канфлікт з крыжакамі, а ўжо ў хуткім часе страціла гарады Кукенойс і Герцыке на Двіне. Да 1230-х г. уладанні немцаў у Падзвінні выйшлі да этнічных усх.-слав. зямель. У 1222 смаляне захапілі Полацк, дзе замацаваўся прадстаўнік смаленскай дынастыі Святаслаў Мсціславіч. Аднак праз 10 гадоў, узначаліўшы палачан, ён у выніку ваеннага паходу завалодаў Смаленскам. У 1239 у Полацку згадваецца апошні прадстаўнік мясц. дынастыі Брачыслаў, які выдаў сваю дачку замуж за наўгародскага кн. Аляксандра Яраславіча (Неўскага). Не здолеў стабілізаваць сітуацыю і абараніць П.к. ад знешніх пагроз кн. *Канстанцін*. Акалічнасці з'яўлення ў Полацку першага літ. князя *Таўцівіла*, пляменніка *Міндоўга*, дакладна невядомыя, аднак адбылося гэта не пазней за 1258. У праўленне Таўцівіла ваенна-паліт. актыўнасць П.к. рэзка ўзрасла. У 1258 палачане разам з літоўцамі ваявалі на Смаленшчыне, а ў 1262 у саюзе з наўгародцамі аблажылі і ледзь не ўзялі нямецкі замак Дэрпт (Юр'еў). У цэлым першы досвед праўлення літоўскага кн. ў Полацку быў удалы, летапісцы характарызуюць Таўцівіла як «добра князя». Працэс інтэграцыі Полацкай зямлі ў ВКЛ, які пачаўся ў княжанне Таўцівіла, праходзіў паступова і расцягнуўся на доўгі час. Пасля, відаць, кароткага праўлення ў Полацку *Ізяслава* звесткі пра полацкіх князёў надоўга знікаюць з крыніц. Паводле некаторых даных, у канцы 13—пач. 14 ст. П.к. на нейкі час трапіла пад уладу інфлянцкіх немцаў, але вызвалілася з дапамогай літоўцаў. У пач. 14 ст. Полаччына ўяўляла сабой тэакратычную рэспубліку на чале з правасл. епіскапам, якая прызнавала вярхоўную ўладу вял. князёў літоўскіх, аб чым сведчыць пасланне епіскапа *Якава*. Княжацкая ўлада была адноўлена ў Полацку, відаць, толькі пры *Гедзіміне*.

У 1326 яго брат полацкі кн. *Воінь* разам з іншымі пасламі «от Литовьскыя земли» прыязджаў у Ноўгарад для заключэння мірнага дагавора з наўгародцамі і немцамі. Аднак ужо ў 1333 і 1334 П.к. вымушана было абараняцца ад пахода інфлянцкага войска на чале з магістрам. Мірны дагавор Гедзіміна з інфлянцкімі немцамі ад 1.11.1338 быў заключаны ў тым ліку ад імя Полацка, дзе ў той час княжыў *Нарымонт*. Пасля яго гібелі ў бітве на р. Стрэва (1348) апошнім полацкім князем стаў *Андрэй Альгердавіч*. Воінь, Нарымонт і Андрэй прытрымліваліся знешнепаліт. курсу вял. князёў літоўскіх і ўзгаднялі з імі свае ваенна-паліт. акцыі. Андрэй Альгердавіч пашырыў межы П.к. на Пн за кошт наўгародскіх уладанняў. Аднак шматлікія ваенныя канфлікты, у якіх ён удзельнічаў у час свайго доўгага княжання ў Полацку, і яго зацятая барацьба з Ягайлам за вярхоўную ўладу ў ВКЛ аслабілі П.к., падарвалі яго гаспадарчы патэнцыял і людскія рэсурсы. Пасля ўцёкаў Андрэя Альгердавіча з Полацка зімой 1377—78 Полаччына трапіла пад уладу Ягайлы. Але яго спроба перадаць П.к. *Скіргайлу*, відаць, была беспаспяховай. Аблога Скіргайлам Полацка ў 1381 скончылася няўдачай, а ў хуткім часе полацкім князем зноў стаў Андрэй Альгердавіч. Вясной 1387 войска ВКЛ пад камандаваннем Скіргайлы ўзяло Полацк. Прывілеем ад 28.4.1387 Ягайла перадаў Трокі, Полацк, Менск і шэраг інш. уладанняў Скіргайлу. Асобнае ўдзельнае П.к. спыніла сваё існаванне. На схіле свайёй гісторыі, у сувязі з паліт. амбіцыямі Андрэя Альгердавіча П.к. на кароткі час набыло статус вялікага. Гіст. памяць пра колішнюю магутнасць і традыцыі П.к. доўгі час захоўвалася сярод жыхароў рэгіёна і знайшла сваё адлюстраванне, у прыватнасці, у выдатным помніку бел.-літ. летапісання — *Хроніцы Быхаўца*.

*Літ.*: Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Ипатьевская летопись // Полное собрание русских летописей. СПб., 1908. Т. 2; Maciejewska W. Dzieje ziemi Połockiej w czasach Witolda (1385—1430) // Ateneum Wileńskie. 1933. R. 8; Псковские летописи. Вып. 1—2. М.;Л., 1941—55; Новгордская первая летопись старшего и младшего изводов. М.;Л., 1950; Алексеев Л.В. Полоцкая земля: (Очерки истории Северной Белоруссии в IX—XIII вв.). М., 1966; Łowmiański H. Geneza ziemi połockiej // Studia nad dziejami Słowiańszczyzny, Polski i Rusi w wiekach średnich. Poznań, 1986; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990; Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: падзеі і асобы. Мн., 1993; Флоря Б.Н. Историческая традиция об общественном строе средневекового Полоцка // Отечественная история. 1995. №5; Загарульскі Э.М. Заходняя Русь IX—XIII стст. Мн., 1998.

*Васіль Варонін.*

**полацкае права**, сістэма звычаёвага і пісанага права, якая дзейнічала на тэрыторыі Полацкага княства (пазней Полацкай зямлі, Полацкага ваяв.). Асн. нормы П.п. змешчаны ў Полацкім земскім прывілеі, які з'яўляўся гарантыяй захавання мясц. традыцый і рэгіянальнай аўтаноміі, рэгуляваў адносіны паміж вял. князем літоўскім (яго намеснікам) і палачанамі, вызначаў прававое становішча насельніцтва. Упершыню нададзены Полацкай зямлі Вітаўтам паміж 1392 і 1399 неўзабаве пасля ліквідацыі Полацкага ўдзельнага княства. Пазней пацвержаны Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам (1430-я г.), Казімірам Ягелончыкам (2 разы: да і пасля 1447), Аляксандрам Ягелончыкам (1492—98), Жыгімонтам Старым (1511; самы ранні прывілей Полацкай зямлі, тэкст якога захаваўся), Жыгімонтам Аўгустам (1547), Стафанам Баторыем (1580), Жыгімонтам III Вазам (1593), Уладзіславам IV (1634), Янам Казімірам (1649).

Пасля ўключэння ў склад ВКЛ Полацкае княства захавала шырокую аўтаномію. Пытанні ўнутр. жыцця, знешнепаліт. і гандлёвых кантактаў Полацка па-ранейшаму знаходзіліся ў кампетэнцыі мясц. веча. Сведчаннем асобнага статуса Полацка ў складзе ВКЛ у 14 ст. з'яўляецца наступны факт: у 1338 мірнае пагадненне паміж ВКЛ і Лівонскім ордэнам было заключана Гедзімінам са згоды епіскапа, князя і веча Полацка. Адносіны паміж палачанамі і полацкімі князямі, як і ў далітоўскую эпоху, рэгуляваліся пры дапамозе дамовы — «ряда» (спроба рэканструкцыі зроблена Я.Якубоўскім). Князь даваў палачанам гарантыі недатыкальнасці полацкіх цэркваў і іх маёмасці, вотчынных і набытых маёнткаў палачан, браў на сябе абавязкі прытрымлівацца шэрагу правіл пры ажыццяўленні судовай улады (не мяняць ранейшыя судовыя рашэнні, не караць чалавека па даносу без правядзення следства, не верыць паказанням, атрыманым у выніку катаванняў, і паказанням халопаў, не пазбаўляць волі на час следства асобу, за якую паручыліся палачане) і інш. У святле захаваных крыніц нават прыблізна ўзнавіць поўны тэкст дамовы палачан са сваімі князямі немагчыма.

У 1392 Вітаўт ліквідаваў Полацкае княства і пачаў кіраваць Полацкай зямлёй праз намеснікаў. Знешнепаліт. дзейнасць Полацка была значна абмежавана, але ва ўнутраным жыцці былога княства практычна нічога не змянілася: усе істотныя пытанні па-ранейшаму вырашаліся на вечы, якое паступова ператваралася ў мясц. сойм. У 1392—99 Вітаўт замацаваў паліт.-прававыя традыцыі і аўтаномны статус Полацкай зямлі прывілеем, які быў кампрамісам паміж вял. князем літоўскім і пазбаўленым дзяржаўнасці ў выглядзе ўдзельнага княства полацкім грамадствам. Пры падрыхтоўцы тэксту прывілея ў якасці крыніц былі, відаць, выкарыстаны полацкае звычаёвае права, нарматыўныя дагаворы — дамовы («ряды») палачан са сваімі князямі, нарматыўныя прававыя акты — княжацкія ўставы і інш., судовы прэцэдэнт.

Прывілей Вітаўта гарантаваў палачанам недатыкальнасць полацкіх цэркваў і царк. земляў, вотчынных і набытых згодна з правам маёнткаў, вымарачнай маёмасці (яе лёсам распараджаліся самі палачане), звальненне ад мытных збораў на тэрыторыі ВКЛ, права на свабодны выбар месца жыхарства. Вял. князь абавязваўся не перадаваць асабіста вольных палачан пад юрысдыкцыю інш. прыватных асоб і не забіраць іх коней «въ подводы», не караць палачан па даносу без правядзення следства, не мяняць свае ўласныя ранейшыя судовыя выракі і рашэнні судоў сваіх папярэднікаў, прымаць ад палачан «чоломъбитье». Палачанін не мог быць выкліканы на суд вял. князя па-за межы Полацкай зямлі. Некаторыя справы (напр., пакаранне чалавека, які прывёз у Рыгу на продаж няякасны воск) былі пакінуты ў кампетэнцыі саміх палачан. Значна абмежавана была ўлада гаспадарскага намесніка (пазней ваяводы). Адразу пасля пры-



значэння на пасаду і прыезду ў Полацк намеснік павінен быў прысягнуць палачанам у тым, што будзе ажыццяўляць свае ўладныя паўнамоцтвы згодна з правам. Ён мог судзіць палачан толькі ў Полацку ў прысутнасці паўнапраўных прадстаўнікоў мясц. насельніцтва. Палачане мелі права патрабаваць ад вял. князя замены няўгоднага ім намесніка на іншага. Палажэнні прывілея абаранялі насельніцтва Полаччыны ад незаконных пабораў з боку намесніка і вызначалі фіксаваныя памеры судовых пошлін. Крымінальным правам і працэсам прадугледжвалася, што пакараць можна толькі асобу, віна якой даказана ў судзе. Доказам не маглі лічыцца паказанні, атрыманыя шляхам катаванняў, і паказанні несвабодных. Чалавека, за якога паручыліся годныя даверу асобы, нельга было на час следства пазбавіць волі. Скрадзеная маёмасць вярталася пацярпеламу. У выпадку немажлівасці выплаты кошту скрадзенага ў якасці кампенсацыі пацярпеламу перадаваўся сам злодзей. Палачане павінны былі выконваць вайсковую службу ў войску ВКЛ, аднак вял. князь не мог выкарыстоўваць іх для гарнізоннай службы ў замках па-за межамі Полацкай зямлі.

У канцы 14 ст., калі Полацкая зямля атрымала ад Вітаўта свой першы прывілей, на землях Бел. Падзвіння яшчэ не існавала падзелу грамадства на саслоўі з іх асобнымі саслоўнымі правамі. П.п. карысталіся ўсе сац. групы паўнапраўнага насельніцтва, якое ў пісьмовых крыніцах выступае пад агульным тэрмінам «полочане». Не карысталіся П.п. несвабодныя жыхары Полацкай зямлі і немцы з Рыгі, якія часова ці стала жылі ў Полацку (апошнія карысталіся нямецкім правам і знаходзіліся пад юрысдыкцыяй уладаў Рыгі). У 15 ст., у сувязі са зменамі ў структуры полацкага грамадства многія пастановы старажытнай часткі прывілея набылі новае гучанне: сацыяльна бязлікія «полочане» паступова замяняліся на полацкіх баяр, мяшчан, путных слуг і інш. У тэксце прывілея з'явіўся шэраг новых норм, якія рэгулявалі адносіны паміж саслоўямі. Да надання Полацку магдэбурскага права (1498) і вылучэння мяшчанскай абшчыны са складу «зямлі» П.п. захоўвала свой агульназемскі характар. Нават у 1511 атрымальнікамі Полацкага земскага прывілея былі названы «бояре полоцькие и мешчане, и вес город, вся земля Полоцкая».

У 1430-я г. Полацкі земскі прывілей падцвердзілі і ўнеслі ў яго склад шэраг новых палажэнняў Свідрыгайла і Жыгімонт Кейстутавіч. Казімір Ягелончык двойчы пацвярджаў Полацкі земскі прывілей: да і пасля 1447 (на думку М.К.Любаўскага і Якубоўскага — у 1451). Пад час пацвержаня 1451 у склад дакумента быў унесены амаль даслоўны пераказ шэрагу пастаноў агульназемскага *прывілея 1447*, якія распаўсюджвалі на полацкіх баяр і мяшчан прынцыпы публічнага разгляда судовых справаў і выключна асабістай адказнасці за злачынствы, надавалі ім правы вольна распараджацца сваімі маёнткамі і судзіць сваіх падданых, абаранялі маёмасныя правы ўдоваў. Вял. князь адмяняў рэгулярны збор сярэбшчыны з падданых полацкіх землеўладальнікаў і адмаўляўся ад выкарыстання іх працы на гаспадарскіх дварах. Дзеянне некалькіх супярэчных новаўвядзенням палажэнняў П.п. было адменена. У 1492—98 Полацкі земскі прывілей быў пацвержаны Аляксандрам Ягелончыкам. Пры гэтым у склад дакумента былі ўнесены 2 новыя нормы, якія дазвалялі духоўным і свецкім феадалам мецъ падданых на сваіх уласных землях у Полацку, вызначалі адносіны падданых баяр і духавенства да сваіх гаспадароў і мяшчанскай абшчыны. Пад час пацвержання прывілея Жыгімонтам Старым у 1511 у яго склад унесены палажэнні пра перадачу важніцы і прыбыткаў з яе полацкім баярам і мяшчанам, парадак эксплуатацыі бабровых гонаў, забарону мяшчанам браць дрэва ў баярскіх лясах без згоды гаспадароў, звальненне пражываючых у Полацку падданых баяр і духавенства ад устаноўленых магістратам падаткаў. Вярхоўныя ўлады абавязваліся не дасылаць у Полацк складзеныя з наёмнікаў залогі без згоды палачан. Пры пацвержанні Полацкага земскага прывілея Стафанам Баторыем у 1580 у яго склад унесена палажэнне аб тым, што полацкія гродскі і земскі суды ў сваёй працы павінны кіравацца нормамі Статутаў ВКЛ.

У 16 ст. ў сувязі з увядзеннем у дзеянне Статутаў ВКЛ сфера ўжытку П.п. значна скарацілася. Пасля ўвядзення Статута ВКЛ 1566 Полацкі земскі прывілей (П.п.) канчаткова страціў свой агульназемскі характар і трансфармаваўся ў прывілей полацкай шляхты.

*Публ.*: Полоцкие грамоты. Вып. 3. М., 1980. С. 85—92.; Lietuvos Metrika. Kn. 8 (1499—1514). Vilnius, 1995. P. 451—454.

*Літ.*: Ясинский М.Н. Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889; Якубовский И. Земские привилеи Великого Княжества Литовского // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1903. № 4, 6; Пичета В.И. Полоцкая земля в начале XVI в. // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Юхо Я. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992; Варонін В. Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст. // Бел. гіст. агляд. 1998. Сш. 1; Макараў М. Полацкі і Віцебскі земскія прывілеі: Да гісторыі стварэння тэкстаў дакументаў // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2003. Z. 20.

***Максім Макараў.***

**Полацкая грэка-каталіцкая архіепархія**, адм.-тэр. адзінка уніяцкай царквы. Створана ў выніку пераводу *Полацкай праваслаўнай архіепархіі* ва уніяцтва пасля *Берасцейскай уніі 1596*. Ахоплівала Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае і Інфлянцкае ваяв., Курляндскае і Земгальскае герцагствы. Кафедры архіепіскапаў знаходзіліся ў *Полацкім Сафійскім саборы* і саборы *Віцебскага Успенскага манастыра*. Актыўнае пашырэнне уніяцтва пачаў архіепіскап Іасафат *Кунцэвіч*, што прывяло да *Віцебскага паўстання 1623* і забойства Кунцэвіча. Нягледзячы на супраціўленне вернікаў, у 18 ст. уніяцтвам была ахоплена большасць насельніцтва архіепархіі. П.г.-к.а. лічылася найб. значнай сярод уніяцкіх епархій, з 15 полацкіх архіепіскапаў 7 сталі мітрапалітамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) тэр. архіепархіі ўвайшла ў склад Рас. імперыі, у 1774 тут было каля 500 цэркваў. З 1777 архіепархія ахоплівала Полацкую (з 1802 Віцебскую) і Магілёўскую губ. З канца 18 ст. пачаўся працэс пераводу часткі уніятаў у праваслаўе. У выніку Полацкага царк. сабора 1839 уніяцкая царква была скасавана, П.г.-к.а. спыніла існаванне. Кіруючыя архірэі — архіепіскапы мелі тытул полацкі, віцебскі і мсціслаўскі, часам таксама аршанскі і магілёўскі.

Архіепіскапы: Герман (Грыгорый) Загорскі (1596—1600), Гедэон Бральніцкі (1601—18), Іасафат Кунцэвіч (1618—23), Антоній Сялява (1624—55), Гаўрыіл Календа (1655—74), Кіпрыян Жахоўскі (1674—93), Марцін Белазор (1697—1707), Сільвестр Лада-Пашкевіч (1709—19), Фларыян Грабніцкі (1719—62), Язон Смагаржэўскі (1762—84), Іраклій Лісоўскі (1784—1809), Іаан Красоўскі (1811—27), Якаў Адам Акела-Мартусевіч (1827—33), Іасафат Булгак (1833—38), Васіль Лужынскі (1838—39).

*Літ.*: Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; Сапунов А.П. Витебская старина. Т. 3. Витебск, 1883; Стрельбицкий И. Униатские церковные соборы с конца XVI в. до воссоединения униатов с православною церковью. Вильна, 1888; Шэйкін Г. Полацкая епархія // Беларускі праваслаўны каляндар, 1996. Мн., 1996.

***Віктар Кірэеў.***

**Полацкая зямля**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у канцы 14—пач. 16 ст. Склалася на аснове *Полацкага княства*. З 1387 вярхоўны правіцель П.з. — вял. князь літоўскі, які кіраваў праз намеснікаў. У 15 ст. захоўвалася ўнутраная аўтаномія П.з. як асобнай адм. адзінкі. Паводле прывілеяў, што вызначалі прававы стан П.з., вярхоўная ўлада гарантавала непадзельнасць яе тэрыторыі, абавязвалася прызначаць у горад велікакняжацкіх намеснікаў толькі са згоды мясцовых баяр і мяшчан. На аснове П.з. ў 1504 утворана *Полацкае ваяводства*.

**Полацкая нямецкая факторыя**, гандлёвая кантора ў *Полацку* ў 13—16 ст. Служыла пераважна нямецкім купцам з Рыгі, якія маглі гандляваць у Полацку і з мясцовымі жыхарамі, і з гандлярамі з інш. краін. Сярод прадметаў гандлю былі соль, сукно з Лондана, Нідэрландаў (у т.л. з Іпра, Валансьена) і Вестфаліі, жалеза, медзь, волава, свінец, а таксама селядцы, віно, піва, прыправы і інш. Полацкая зямля ў сваю чаргу экспартавала воск, футра, шкуры, гарбарныя вырабы, сала, дзёгаць, лён. Тавары рыжскіх купцоў захоўваліся ў нямецкім каталіцкім касцёле і нямецкіх дамах горада. Дзейнасць факторыі накіроўвалася і строга кантралявалася радай Рыгі. Нямецкі гандаль квітнеў у Полацку ў 14 ст., асабліва пасля заключэння *дагавора 1323*. У 1466—78 у выніку канфлікту паміж Полацкам і Рыгай факторыя часова прыпыніла сваю дзейнасць. У 1511 вял. кн. Жыгімонт Стары выдаў прывілей Полацку, паводле якога дзейнасць нямецкіх купцоў абмяжоўвалася Полацкам, гандляваць яны цяпер маглі толькі з гараджанамі. У 1-й пал. 16 ст. факторыя спыніла існаванне.

*Літ.*: Hildebrand H. Das deutsche Kontor zu Polozk // Baltische Monatschrift. Bd. 22.

***Уладзімір Кананові́ч, Анатоль Літвіновіч.***

**Полацкая праваслаўная архіепархія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Цэнтр — г. *Полацк*. Заснавана як епархія ў 992 у складзе Кіеўскай мітраполіі. З Полацкай епархіі бярэ пачатак правасл. царква на Беларусі. Адыграла важную ролю ў хрысціянізацыі Падзвіння і пашырэнні тут больш высокай візантыйскай культуры. Кафедральным храмам епархіі быў *Полацкі Сафійскі сабор*. У 13—пач. 14 ст. з'яўлялася гал. правасл. епархіяй у ВКЛ, ахоплівала тэр. паўн. і цэнтр. Беларусі, у т.л. Навагародак, Менск, Слуцк, Оршу, і некаторых суседніх зямель, напр., Цвярскога княства. Са стварэннем мітрапаліцкай кафедры ў Навагародку (1316) роля П.п.а. паменшала, аднак у 1511 яна атрымала статус архіепіскапіі, што сведчыла пра яе высокі духоўны аўтарытэт. Аднак у сярэдзіне 16 ст. адбывалася некананічнае пастаўленне велікакняжацкай уладай на архіепіскапскую кафедру свецкіх людзей, што прыводзіла да злоўжыванняў і дыскрэдытацыі духавенства. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82*, калі Полацк быў заняты рас. войскам, маскоўскі мітрапаліт прызначаў на полацкую кафедру сваіх прадстаўнікоў, а каралі Рэчы Паспалітай ставілі сваіх архіепіскапаў полацкіх, якія жылі ў Віцебску і Мсціславе. У 1596 полацкі архіепіскап Герман падпісаў акт *Берасцейскай уніі 1596* (ён зачытваў на саборы і папскую булу пра злучэнне цэркваў). Такім чынам замест праваслаўнай была ўтворана *Полацкая грэка-каталіцкая архіепархія*. У 1620-я г. з аднаўленнем правасл. Кіеўскай мітраполіі ў Рэчы Паспалітай П.п.а. была часова аднаўлена з прызначэннем на кафедру Мялеція *Смятрыцкага*; 2-е яе часовае адраджэнне адбылося ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, калі маскоўскі патрыярх Нікан прызначыў у Полацк сваіх епіскапаў Іаакіма і Каліста. Тытулы кіруючых архірэяў, епіскапаў і архіепіскапаў: полацкі (992—1490), полацкі і віцебскі (1490—1540-я г.), полацкі, віцебскі і мсціслаўскі (1540—1660-я г.), полацкі і велікалуцкі (1563—79, епіскапы ў юрысдыкцыі Маскоўскай мітраполіі).

Епіскапы (архіепіскапы) полацкія (13—17 ст.): Уладзімір (каля 1218), Аляксій (1231), Сімяон I (?—1289), Іакаў II (1300), Грыгорый I (1331), Феадосій (1392—1416), Грыгорый II (1434—52), Міхаіл (1452—56), Сімяон II (1456—58), Каліст (1458—59), Сімяон III (1459—81), Іона I Глезна (1481—89?), Лука (1490—1509), Яўфімій Акушка (1509—14), Іосіф (1514 ці 1516—22), Нафанаіл I (1522—34), Місаіл (1534—38?), Іаакім (1538—40), Сімяон IV (1540—44?), Герман I Храбтовіч (?—1558), Герасім (Глеб) Корсак (1558—62), Грыгорый III Валовіч (згадваецца ў 1562, невядома, ці быў пасвячоны ў епіскапа), Арсеній Шышка (1563), Варсанофій (1563—76), Феафан Рыпінскі (1576—88); адначасова з 2 апошнімі маскоўскім мітрапалітам былі прызначаны 4 епіскапы: Трыфан (1563—66), Афанасій (1566—72), Антоній (1572—77), Кіпрыян (1577—79); Афанасій Цярлецкі (1588—92), Нафанаіл II (Богуш) Сяліцкі (1592—95), Герман II (Грыгорый) Загорскі (1595—96), Мялецій Смятрыцкі (1620—23), Іаакім Дыяканаў (1654—56), Каліст Дарафеевіч-Рытарайскі (1656—64?).

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990; Шэйкін Г. Полацкая епархія // Беларускі праваслаўны каляндар, 1996. Мн., 1996; Яго ж. Полоцкая епархия. Мн., 1997.

***Генадзь Шэйкін.***

**Полацкая рэвізія 1552**, апісанне Полаччыны, зробленае рэвізорамі маршалкам гаспадарскім Я.Кмітам і канюшым троцкім М.Падцандкоўскім. Была важным сац.-эканам. і паліт. мерапрыемствам, ажыццёўленым вярхоўнай уладай з мэтаю дакладнага ўліку эканам. стану зямель у Полацкім ваяв., замкаў, гарадоў, у т.л. Полацка, ваенных рэсурсаў і патрэб, павелічэння дзярж. даходаў і інш. Уключае падрабязнае апісанне абарончых збудаванняў Полацка (вежы, сцены, брамы, мас-

ты), гармат, павіннасцей асн. груп насельніцтва, зямельных уладанняў шляхты (з пазначэннем колькасці дымоў у сёлах, узброеных коннікаў, вылучаных у войска), духавенства, мяшчан. Рэвізія дае магчымасць меркаваць пра колькасць і размяшчэнне гар. насельніцтва, тапаграфію Полацка, заняткі, сац. дыферэнцыяцыю гараджан і інш. Дакументы П.р. выдадзены ў 1880 Ю.Шуйскім па дэфектным спісе сярэдзіны 18 ст., што належаў б-цы графаў Браніцкіх (у серыі: Крыніцы па гісторыі Польшчы. Кракаў, т. 5), і ў 1905 І.І.*Лапам* па спісе канца 15 або 1-й пал. 17 ст. Ваенна-вучонага архіва Гал. штаба. Апошняе выданне зроблена на больш высокім навук. узроўні, мае імянны, геаграфічны і прадметны паказальнікі.

*Публ.*: Полоцкая ревизия 1552 года // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1905. Кн. 2.

***Георгій Галенчанка.***

**Полацкая эканомія**, дзяржаўнае ўладанне ў ВКЛ у 16—18 ст. Вылучана ў Полацкім ваяв. на ўтрыманне полацкіх ваявод. У 18 ст. падзялялася на войтаўствы: Езярыцкае, Ісцецкае, Клясціцкае, Ліснянскае, Непаротаўскае, , Уклеінскае, Тарантоўскае, частка якіх падзялялася на службы, населеныя панцырнымі баярамі і зямянамі. Паводле рэвізіі 1782 П.э. займала плошчу 141 602 дзесяцін, тут былі 550 вёсак, 3445 двароў, 14 228 мужчынскіх і 13 705 жаночых душ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1772 Клясціцкае, Ліснянскае і Нішчанскае войтаўствы былі падараваны М.І.*Паніну*, астатнія землі эканоміі да канца 18 ст. раздадзены інш. прыватным асобам.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Том 1. Киев, 1901.

***Яўген Анішчанка.***

**Полацкі Богаяўленскі манастыр**, мужчынскі манастыр праваслаўнага брацтва ў *Полацку*. Заснаваны ў 1582. Быў цэнтрам праваслаўя ў Полацку. Для пабудовы манастыра 8.5.1582 кароль Стафан Баторый даў 2 пляцы і вызваліў яго ад гар. павіннасцей. Манастыр падпарадкоўваўся непасрэдна кіеўскаму мітрапаліту і канстанцінопальскаму патрыярху. У 1650-я г. цар Аляксей Міхайлавіч перадаў манастыру апусцелы Заполацкі Праабражэнскі манастыр з яго вёскамі і 2 млынамі на р. Палата. Аднак пасля Андросаўскага перамір'я 1667 гэтыя маёнткі перайшлі да езуітаў і інш. Асн. уласнасцю манастыра была в. Ропна (у пач. 19 ст. 1289 дзесяцін зямлі, 42 падданыя). У 17 ст. пры манастыры існавала брацкая школа, у якой выкладаў *Сімяон Полацкі*. У 1704 цар Пётр І дазволіў манахам ездзіць у Рыгу для правядзення адпраў і збору міласціны. У 17—1-й пал. 18 ст. драўляныя будынкі манастыра не раз гарэлі і аднаўляліся. У 1761—79 пабудавана мураваная крыжова-купальная Богаяўленская царква, у 1780—88 на грошы, адпушчаныя Кацярынай ІІ (35 221 руб.) — мураваныя карпусы духоўнага вучылішча і келляў, а таксама цэрквы св. Кацярыны і св. Ефрасінні. У 1918 манастыр закрыты. Большасць будынкаў манастыра захавалася.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Полацкі езуіцкі калегіум.** Адкрыты ў *Полацку* летам 1580 паводле загаду караля Стафана Баторыя. Навучанне і выхаванне вялося па праграмах для езуіцкіх калегіумаў, вылучалася высокім узроўнем. Першым рэктарам быў вядомы ідэолаг контррэфармацыі ў Рэчы Паспалітай П.*Скарга*. Калегіуму было дадзена не менш як 72 вёскі (з 730 дымамі) і 423 дамы ў Полацку. Першапачаткова размяшчаўся ў Полацкім замку. У 1598 яго перавялі ў спецыяльна ўзведзены будынак непадалёку ад замка. У 1738 пабудаваны і ў 1745 асвячоны мураваны касцёл Звеставання Прасвятой Дзевы Марыі (папярэднія драўляныя касцёлы згарэлі пры пажарах), у 1749 — мураваны вучэбны корпус (будаўніцтва новых карпусоў працягвалася да пач. 19 ст.). Езуіты мелі ў Полацку 6 касцёлаў. У 1772 калегіуму належала каля 5 тыс. валок зямлі, 16 620 прыгонных у вёсках і 289 мяшчан. Да найбуйнейшых належалі 9 фальваркаў: Вяжышчы, Іванск, Ігумнаў, Загацце, Казімірава, Мосар, Мездзічы, Туроўля, Экіманія, якія давалі 63 882 злотых прыбытку. У 1796—1811 у ка-

ПОЛАЦКАЯ ЭКАНОМІЯ ў сярэдзіне XVIII ст.

Цэнтр ваяводства і эканоміі
Цэнтр войтаўства
ПОЛАЦК Горад
Асвея Мястэчкі
*Баброўка* Вёскі
Граніцы дзяржаў
Межы ваяводстваў
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
Тракты
Маштаб 1:1 200 000

Лічбамі пазначаны войтаўствы: 1 Непаротаўскае, 2 Езярыцкае, 3 Уклеінскае, 4 Ісцецкае, 5 Тарантоўскае, 6 Нішчанскае, 7 Ліснянскае і Клясціцкае

Аўтар Я.К.Анішчанка



**Полацкі езуіцкі калегіум**. Касцёл св. Стафана. Малюнак Н.Орды.



**Полацкі Сафійскі сабор**.

легіуме вучылася ад 244 да 441 чал. Пры калегіуме існавалі канвікт (інтэрнат), б-ка, друкарня (з 1787), тэатр, музей (з 1780-х г.), аптэка (зафіксавана з 1641), шпіталь для бедных, сукнавальня (каля 1797). У 1812 на базе калегіума адкрыта езуіцкая акадэмія. Будынкі часткова захаваліся.

***Вячаслаў Шалькевіч.***

**Полацкі кляштар бернардзінцаў**. Існаваў у *Полацку* ў 1498—1832. Адзін з першых 4 кляштараў ордэна бернардзінцаў у ВКЛ. Заснаваны вял. кн. Аляксандрам на Запалоцці пры ўпадзенні Палаты ў Дзвіну з мэтай схілення праваслаўных у каталіцтва. Відаць, у гэтым кляштары атрымаў пачатковую адукацыю Ф.*Скарына*. Драўляны касцёл кляштара пабудаваны ў 1502. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* ён спалены ў 1563; ацалелыя манахі ўцяклі і кляштар спыніў існаванне; маёнткі, дадзеныя вял. князем, перайшлі да праваслаўных. У 1696 ваявода Д.Слушка зноў запрасіў бернардзінцаў у Полацк і размясціў іх у слабадзе Кабак. Пасля яго смерці ахвяраванні на будаўніцтва кляштара рабілі Буйніцкія — падчашыя Полацкага ваяв. Пасля пажару 1758 пабудаваны мураваны касцёл Маці Божай Марыі Нябеснай (асвячоны ў 1769) і жылы корпус. Касцёл быў аднанефавы, з трансептам і 2-вежавым фасадам, памерамі 42 х 25 локцяў. У 1772 было 10 манахаў; пры кляштары дзейнічала школа філасофіі. У 1832 кляштар скасаваны, касцёл ператвораны ў правасл. царкву. Жылы корпус захаваўся.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Полацкі кляштар францысканцаў**. Існаваў у *Полацку* у 17 ст.—1832. Заснаваны полацкім войскім К.Храпавіцкім з жонкай Тэафіляй з Саколінскіх паміж 1628 і 1648 (найб. верагодная дата — 1640). Першыя 2 касцёлы былі драўляныя. Мураваны касцёл св. Антонія пабудаваны ў 1763—75. Уяўляў сабой 3-нефавы храм памерамі 14,5 × 9,5 сажняў з 2-вежавым фасадам, у інтэр'еры мелася 7 алтароў. У 1832 касцёл ператворы ў правасл. царкву, пасля 1917 разбураны. Захаваўся 2-паверховы жылы корпус пач. 18 ст.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Полацкі Сафійскі сабор**, помнік архітэктуры 11—18 ст. у *Полацку*. Мае фундаментальнае значэнне ў развіцці манументальнай архітэктуры Беларусі, тройчы вызначаў напрамкі яе гіст.-мастацкага развіцця. Стаў першым творам мураванага хрысціянскага храмабудаўніцтва на бел. землях у выніку хрысціянізацыі Старажытнай Русі па візантыйскаму абраду і мэтанакіраванай праграмы пасвячэння яе патранату Сафіі — Прамудрасці Божай — вышэйшай сакральнай ідэі. Агульным сімвалам новага хрысціянскага разумення будовы Сусвету стала ўзвядзенне 3 велічных Сафійскіх сабораў у Кіеве (1017—37), Ноўгарадзе (1045—52) і Полацку (1044—66, паводле інш. звестак 1050—55). Пабудаваны ў час праўлення кн. Усяслава Брачыславіча ў традыцыях сярэдневізантыйскага дойлідства. Сваім прызначэннем і велічным маштабам адлюстраваў паліт. і эканам. ўздым Полацкага княства. У ім адбываліся найб. значныя грамадскія падзеі: «пасаджэнне на сталец», абвяшчэнне вайны і міру, прысяга на вернасць князю, сустрэчы іншаземных паслоў, захоўваліся дзярж. скарб і архіў, вялося летапісанне. Тут пачала свой духоўны подзвіг св. Ефрасіння Полац-



**Полацкі Сафійскі сабор**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.



кая, з яе імем звязана стварэнне *бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора*. Паводле архітэктурнай тыпалогіі, гэта 16-слупавы крыжова-купальны храм цэнтрычнай кампазіцыі (асн. аб'ём у плане 26,4 х 26,4 м, падкупальны квадрат 5,5 х 5,7 м) з 3 больш нізкімі паўкруглымі апсідамі з усх. боку (агульная даўжыня збудавання па восі З-У 31,5 м). Пралёты паміж слупамі падкупальнага квадрата ўдвая большыя за астатнія, у выніку чаго вылучалася ядро кампазіцыі ў выглядзе роўнаканцовага грэчаскага крыжа, якое з 3 бакоў абкружалі хоры. Паміж рамёнамі крыжовага ядра згрупаваны па 4 невял. кампартыменты, перакрытыя купаламі і закамарамі. Паводле летапісаў, сабор меў 7 купалоў. Цэнтр. купал падтрымліваў светлавы барабан з 12 арачнымі праёмамі. Сцены змураваны з прыроднага каменю і плінфы з клеймамі, слупы, аркі і скляпенні цалкам з плінфы ў тэхніцы са схаваным радам. На неатынкаванай паверхні фасадаў вузкія чырвоныя палосы плінфы чаргаваліся з шырокімі ў 10—12 см белаl ружовымі палосамі рошчыны, што ствapала дэкаратыўны эфект. У аздабленні былі выкарыстаны элементы візантыйскай архітэктуры: тонкія паўкалонкі, палосы меандру і крыжы. Арачныя нішы і светлавыя праёмы размяшчаліся на сценах у 2 ярусы. Меў суцэльны фрэскавы роспіс слупоў, сцен і скляпенняў на евангельскія сюжэты. Да нашага часу дайшлі фрагменты расліннага арнаменту і кампазіцыі «Еўхарыстыя» ў ніжняй частцы цэнтр. апсіды. Паклаў пачатак Полацкай школе дойлідства стараж.-рус. перыяду.

Храм стаў першаўзорам 4-вежавых правасл. цэркваў-крэпасцей перыяду ВКЛ. У час перабудовы ў 1494—1501 над вуглавымі кампартыментамі надбудаваны 4 вежы. Сабор быў важным пунктам абароны горада, у час небяспекі тут жыў полацкі ваявода з сям'ёй і блізкімі. У ім захоўваліся святыні і скарб горада, земскія кнігі Полацкага ваяв., адбываліся сходы гараджан. Выгляд на той час вядомы па малюнку С.Пахалавіцкага «Аблога Полацка войскам Стафана Баторыя 11—30 жніўня 1579 г.» У канцы 16 ст. сабор перайшоў да уніятаў, у 1607 пацярпеў ад пажару і адбудаваны да 1618. Уніяцкі архіепіскап полацкі і віцебскі Іасафат Кунцэвіч «у чатырох нарожных вежах вярхі непатрэбныя і царкве ніякай красы не прыдаваўшыя скінуў, а сярэднюю вежу, прыгожа аздобіўшы, зрабіў яшчэ больш высокай». Зноў пацярпеў ад пажару ў 1643. У час Паўн. вайны, у 1705 па загаду Пятра I пераўтвораны ў склад боепрыпасаў. 1.5.1710 у сутарэннях узарваўся порах, храм амаль поўнасцю быў знішчаны выбухам, за выключэннем алтарных апсід, якія ацалелі на вышыню да 9 м.

На месцы зруйнаванага сабора па ініцыятыве і на ўласныя сродкі архіепіскапа Фларыяна Грабніцкага ў 1738-50 змураваны новы, які стаў першым творам сакральнай архітэктуры, цалкам збудаваным у стылістыцы позняга бел. барока (гл. *Віленскае барока*). Аўтарам праекта атрыбутыўна лічыцца архітэктар І.К.*Глаўбіц* (у 1744 па заказу Грабніцкага выканаў праект мітрапаліцкага палаца ў Струні каля Полацка), магчымы таксама ўдзел архітэктарабазыльяніна Аляксандра Асікевіча. Захаваліся будаўнічыя кантракты Грабніцкага з мулярам з Варшавы Блажэем Касінскім на 2 сезоны (1733) і з мулярам Антоніем Дабрагоўскім на работы па рамонце полацкіх кафедральнай царквы і архірэйскага двара (1748). Як уніяцкі храм П.С.с. быў пераарыентаваны алтаром на Пн, пры гэтым даўжыня старажытнага сабора вызначыла шырыню новай 3-нефавай 1-апсіднай базілікі з 2-вежавым фасадам-нартэксам. Сіметрычна ўсх. алтарным апсідам правасл. храма 11 ст. была ўзведзена аналагічная зах. група апсід, яны разам атрымалі барочнае завяршэнне ў выглядзе самкнутых купалаў з светлавымі ліхтарамі. Мастацкі акцэнт зроблены на аб'ёмна-прасторавай структуры гал. паўд. фасада з 2 магутнымі 5-яруснымі вежамі. З верхнія скразныя ярусы рэзка скарачаюцца ўгору па памерах, што ставрае моцную аптычную перспектыву. Тарцы даху цэнтр. нефа з 2 бакоў закрываюць фігурныя атыкавыя франтоны. У аздабленні выкарыстаны звязкі пілястраў, валюты з грабеньчыкамі, вазыпінаклі, фігурныя нішы і пластычны ляпны дэкор. Архітэктурным чляненням уласціва неакрэсленасць, яны шмат разоў дубліруюцца, разрываюцца, ствараючы тонкую гульню святла і цяню. Лініі карнізаў плаўна выгінаюцца, нібыта хвалі. Верхнія ярусы вежаў і франтоны ствараюць на фоне неба ажурны карункавы малюнак. У інтэр'еры (афармленне працягвалася да 1765) складаная прафіліроўка слупоў і ордэрны дэкор ствараюць зрокава неакрэсленую цякучую прастору. Бакавыя апсіды раскрыты ўнутр шырокімі арачнымі праёмамі. Асн. мастацкасакральны элемент інтэр'ера — мураваная алтарная перагародка, архітэктурнае вырашэнне якой адлюстроўвае кампрамісную сутнасць уніяцкай царквы. Перагародка мае шматпланавую прасторава разгорнутую 3-ярусную будову, барочную групоўку ордэрных элементаў, аздоблена ляпнымі пазалочанымі гірляндамі, картушамі, капітэлямі і завершана барэльефнай кампазіцыяй «Тройца новазапаветная».

Пасля скасавання уніі ў 1839 сабор прыйшоў у заняпад, рэканструяваны ў 1875—78. У 1909—13 праведзены архітэктурна-археалагічныя даследаванні рэшткаў сабора стараж.-рус. перыяду (А.Паўлінаў, П.Пакрышкін, К.Шэроцкі). У 1920—30-х г. помнік вывучалі І.Хозераў, М.Бруноў, М.Шчакаціхін. Археалагічныя даследаванні працягваліся ў 1947 (Я.Ашчэпкаў), 1967 (М.Каргер), 1975—80 (В.Булкін), вынікі прадстаўлены ў экспазіцыі музея сабора. Былы уніяцкі П.С.с. рэстаўраваны ў 1975—85 (архітэктар В.Слюнчанка), прыстасаваны пад канцэртную залу з арганам. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 135.

*Літ.*: Alexandrowicz S. Nowe źródło ikonograficzne do obłężenia Połocka w 1578 r. // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. 1971. № 1; Слюнченко В.Г. Полоцкий Софийский собор. Мн., 1987; Лаврецкий Г. Православное зодчество Беларуси. Мн., 1995; Страчаная спадчына. Мн., 1998; Трусаў А.А. Манументальнае дойлідства Беларусі XI—XVIII стст.: Гісторыя будаўнічай тэхнікі. Мн., 2001; Габрусь Т.В. Мураваная сакральная архітэктура беларускіх земляў XI—XIII стст.: Старажытнарускі перыяд // Архітэктура Беларусі: Нарысы эвалюцыі ва ўсх.-слав. і еўрапейскім кантэксце. Мн., 2005. Т. 1.

***Тамара Габрусь.***

**Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр**, праваслаўны жаночы манастыр у *Полацку*. Заснаваны ў сярэдзіне 12 ст. св. Ефрасінняй Полацкай у мясцовасці Сяльцо (тады паблізу горада) пры драўлянай царкве Спаса, дзе была пахавальня полацкіх епіскапаў.



Тады ж па заказу Ефрасінні (1-й ігумені) мясцовым майстрам Іаанам пабудавана мураваная Спаса-Ефрасіннеўская царква. У 1563—79 у манастыры ўжо не было манахаў, у 1580 кароль Стафан Баторый аддаў яго будынкі з прыналежнымі вёскамі *Полацкаму езуіцкаму калегіуму*. У 1656 паводле загаду рас. цара Аляксея Міхайлавіча Спаса-Ефрасіннеўская царква паўторна асвячона як праваслаўная, у 1667—1820 зноў належала езуітам, якія перatварылі яе ў касцёл. У 1832 вернута праваслаўным. У 1918 манастыр зачынены, адноўлены ў 1990.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**«Полацкі сшытак»**, рукапісны зборнік старадаўняй беларускай музыкі 16—17 ст. Выклеены з вокладкі уніяцкага служэбніка, набытага ў 1956 б-кай Ягелонскага ун-та (Кракаў). Папера зборніка выраблена паміж 1633—50 (паводле вадзяных знакаў), пераплецены служэбнік да 1680. Спачатку кніга належала уніяцкай царкве ў Астрамечаве ў Берасцейскім пав. (назва «П.ш.» умоўная, сувязь з Полацкам не прасочваецца). Зборнік уключае больш за 60 вакальных і інструментальных музычных твораў з выразнымі стылявымі рысамі барока. Сярод іх шматгалосыя канты і псальмы, фрагменты царк. музыкі з лічбаваным басам (для выканання на аргане). Мясцовыя напаўфальклорныя традыцыі спалучаюцца ў музыцы з італьянскімі і французскімі ўплывамі. Інтанацыйны строй мелодый зборніка грунтуецца на слав. народна-песенным меласе і тыповых кантавых, часам стэрэатыпізаваных папеўках і кадэнцыйных зваротах. Сустракаюцца формульныя напевы, якія выконваліся на розныя паэтычныя тэксты. Стылістыка песенных і танцавальных твораў блізкая да стылістыкі кантаў і псальмаў. Тэксты рукапісу напісаны на лац., царкоўнаслав., старабел. мовах. Для запісу музыкі выкарыстаны 2 натацыі — круглая зах.-еўрапейская (т.зв. італьянская) для літургічных твораў, круглая італьянская і квадратная «кіеўская» для свецкіх.

*Літ.*: Gołos J. Nowe spojrzenie na rękopis 10002 BJ // Muzyka. 1973. № 3; Герасимова-Персидская Н.А. Партесный концерт в истории музыкальной культуры. М., 1983. С. 35.

***Ларыса Касцюкавец, Адам Мальдзіс.***

**«Полацкія граматы XII—пачатку XVI стст.»** («Полоцкие грамоты XII—начала XVI вв.»), зборнік дакументаў па гісторыі Полаччыны. Падрыхтаваны Г.Л.*Харашкевіч* і выдадзены Ін-там гісторыі СССР АН СССР у Маскве (вып. 1—5, 1977—85). Уласна дакументы складаюць вып. 1, 2 і палову вып. 3, у астатніх выпусках змешчаны каментарыі. Надрукавана 325 дакументаў (з іх 110 упершыню) 1263—1513 з архіваў Рыгі, Гётынгена, Гданьска, Варшавы, Масквы, у т.л. з Метрыкі ВКЛ. Большасць дакументаў асвятляе адносіны Полацка з Лівоніяй, Маскоўскай дзяржавай, ВКЛ, меншая частка — унутраную гісторыю Полацка. Тэксты арыгіналаў перададзены з максімальнай дакладнасцю, з захаваннем літар, што выйшлі з ужытку, выдзяленнем надрадковых літар і літар, прапушчаных у арыгіналах. Тэксты копій перададзены спрошчаным напісаннем з ужываннем літар сучаснага алфавіта. Дакументы надрукаваны на старабел., нямецкай (22), лацінскай (7), польскай (4) мовах; іншамоўныя тэксты пададзены з паралельным перакладам на рус. мову. Самастойнае навук. значэнне маюць прадмова да зборніка, каментарыі, кантрольна-даведачныя звесткі, паказальнікі (выдадзены асобна ў 1989). Дадзена глыбокая крыніцазнаўчая крытыка апублікаваных дакументаў, іх палеаграфічнае апісанне, абгрунтавана датаванне, названы ранейшыя публікацыі і працы, дзе ўпамінаюцца гэтыя дакументы, апісаны іх знешнія асаблівасці (памеры, пашкоджанні, філіграні, пячаткі і інш.). Зборнік мае вял. значэнне для вывучэння эканам. і сац. становішча сялян, мяшчан, рамеснікаў, інш. слаёў Полаччыны, развіцця ўнутранага і знешняга гандлю, знешнепаліт. зносін Полацка.

***Міхась Шумейка.***

**Полацкія Евангеллі**, тры рукапісныя помнікі 12—14 ст. з Полацка. Напісаны на пергаміне царк.-слав. мовай. 1-е [Погод. 12.] належала Свята-Троіцкаму манастыру. Напісана ўставам, 2 почыркамі ў 2 слупкі на 172 лістах. Пергамін гэтага рукапісу захаваў разметку лінеек вострым пісалам; дзіравкі, што непазбежна з'яўляюцца пры вырабе скуры, акуратна зацыраваны. Захаваліся 2 застаўкі, адна з іх мае арнамент старавізантыйскага тыпу. Абедзве застаўкі дрэнна захаваліся, бо для малявання было выкарыстана серабро, якое з цягам часу акіслілася. Аздоблена кінаварнымі ініцыяламі і загалоўкамі. На палях рукапісу захаваліся ўкладныя запісы 14—17 ст. аб падараванні манастыру зямель, адзін зроблены кн. *Андрэем Альгердавічам* (14 ст.). У 19 ст. рукапіс трапіў у Маскву: асн. частка — да гісторыка М.П.Пагодзіна, а 2 аркушы — да збіральніка В.М.Ундольскага (пасля яны трапілі ў б-ку Румянцаўскага музея, цяпер Аддзел рукапісаў Рас. дзярж. б-кі ў Маскве). У 1852 рукапіс выкуплены імператарскай Публічнай б-кай і перавезены ў Пецярбург.

2-е Евангелле [Qп I.2.] належала манастыру Іаана Прадцечы. Напісана паўуставам у адзін слупок на 196 лістах. Аздоблена кінаварнымі ініцыяламі. На палях захаваліся ўкладныя запісы, сярод якіх зробленыя кн. Ульянай (жонкай Альгерда), полацкім кн. Іванам Юр'евічам. 3-е Евангелле [Fп I.17.] належала таксама манастыру Іаана Прадцечы. Напісана ўставам у 2 слупкі на 144 лістах. Аздоблена застаўкай-пляцёнкай, ініцыяламі ў візантыйскім і тэраталагічным стылях. Укладны запіс 14 ст. вял. кн. Ануфрыя. Мае шмат датаваных прыпісак (1507—57), якія з'яўляюцца дадатковай крыніцай вывучэння тапанімікі і анамастыкі Полацкай зямлі. Усе рукапісы захоўваюцца ў Рас. нац. б-цы ў С.-Пецярбургу. Некаторыя даследчыкі лічаць полацкім Евангелле 12 ст. з Рас. дзярж. б-кі ў Маскве [Рум. 103.], дзе захаваліся шматколерныя мініяцюры з выявамі евангелістаў.

*Літ.*: Гранстрем Е.Э. Описание русских и славянских пергаменных рукописей. Л., 1953; Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Мн., 1993.

***Мікола Нікалаеў.***

**Полацкія замкі**, гарадскія ўмацаванні *Полацка* 11—17 ст. Полацкі Верхні замак збудаваны на правым беразе Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Палата. З'яўляўся ўмацаваным цэнтрам Полацка ў 11—17 ст. Займаў узвышша пл. 9,44 га. Быў абкружаны валам з У, па краі пляцоўкі ўмацаваны драўлянымі сценамі-гароднямі з вежамі. Схілы пляцоўкі неаднаразова ўмацоўваліся — «тамаваліся» (паводле археал. звестак, упершыню каля 1363). Павод-




**Полацкія замкі**. Фрагмент гравюры Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

ле Полацкай рэвізіі 1552, замак меў 9 вежаў, у сярэдзіне 17 ст. — 10. Першае паселішча на тэрыторыі замка ўзнікла ў канцы 9—пач. 10 ст. У сярэдзіне 11 ст. з мыса на левым беразе Палаты сюды перанесены ўмацаваны дзядзінец горада, пабудаваны *Полацкі Сафійскі сабор*. У 12 ст. каля Сафійскага сабора збудаваны храм Архангела Міхаіла, у паўн. частцы замка — княжацкія палаты. Замак як адм. цэнтр горада існаваў да 17 ст.

Полацкі Ніжні (Стралецкі) замак пабудаваны паводле загаду цара Івана IV Грознага пасля ўзяцця Полацка рас. войскамі ў 1563. Прымыкаў да Верхняга замка. Пл. 6 га. З У на ПдЗ быў абгароджаны валам даўжынёй каля 600 м, вышынёй да 10 м, шырынёй у аснове да 30 м. Першыя звесткі пра замак і вал сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах 2-й пал. 16 ст., калі пад кіраўніцтвам баярына Р.І.Шуйскага ваяводы П.Зайцаў і Б.Шчокін значна ўмацавалі Полацк. У гэты час і насыпаны вал. Пры яго будаўніцтве быў скарыстаны грунт аб'ёмам каля 230 тыс. м². Частка грунту была ўзята з месца, дзе капалася новае рэчышча р. Палата (паміж старажытным полацкімі гарадзішчам і селішчам). Паводле плана 1579 С.Пахалавіцкага, на вале было 8 вежаў. У цэнтры замка стаяла вежаданжон. У сярэдзіне—2-й пал. 17 ст. вежы і сцены замка заменены «тынам стаячым». З канца 16 ст. замак перастаў адыгрываць фартыфікацыйную ролю, у 1579 войскі караля Стафана Баторыя штурмавалі полацкія ўмацаванні з боку Верхняга замка. У пач. 17 ст. тэрыторыя Ніжняга замка ўключана ў Вял. пасад.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Мн., 1975; Лэйніс І.П. Ніжні замак у Полацку // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 2; Тарасаў С.В. Полацк IX—XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998

*Сяргей Тарасаў.*

**Полацкія манастыры**, самая шматлікая на Беларусі група манастыроў розных хрысціянскіх канфесій, размешчаная ў *Полацку* і блізкіх ваколіцах. Сярод П.м. першымі ўзніклі і працяглы час колькасна пераважалі правасл. манастыры. Да ліку самых ранніх належаць жаночы *Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр* і мужчынскі Багародзіцкі манастыр, заснаваныя Ефрасінняй Полацкай у 12 ст. Прыблізна тады ж у рэзідэнцыі полацкіх князёў Бельчыцы быў пабудаваны Барысаглебскі манастыр. Да 12 ст. звычайна адносяць заснаванне манастыра св. Іаана Прадцечы на Востраве, хоць першыя пісьмовыя згадкі пра яго датуюцца толькі 14 ст. Ён меў асобы статус. У 16 ст. некалькі яго архімандрытаў сталі полацкімі ўладыкамі. У сярэдзіне 15 ст. полацкім архіепіскапам Сімяонам Наўгародцам быў заснаваны манастыр св. Міколы на Лучне (на беразе Дзвіны, за 15 км на ПдУ ад Полацка). Найб. поўныя даныя аб полацкіх правасл. манастырах дайшлі з 16 ст. Крыніцы згадваюць манастыры св. Міхаіла на Гарадцы, св. Пятра ў замку, Уваскрасення Хрыстова Машаноцкі ў замку, св. Казьмы і Даміяна «в месте» (відаць, на Запалоцкім пасадзе), св. Юрыя «в поли за местом» (недалёка ад горада, за Вял. пасадам, у міжрэччы Палаты і Дзвіны), Пятніцкі (відаць, на Вял. пасадзе), Узнясенскі (відаць, там жа). Разам напярэдадні Інфлянцкай вайны 1558—82 у Полацку налічвалася найменш 11 правасл. манастыроў. Паміж 1563 і 1579 у Верхнім замку маскоўскімі ўладамі быў заснаваны манастыр св. Пятра і Паўла. Правасл. манастыры, за рэдкімі выключэннямі, былі небагатыя, з невял. колькасцю манахаў. Самы заможны (у сярэдзіне 16 ст. на яго землях было 299 сялянскіх дымоў) Спаскі манастыр у 1570 налічваў 16 манахінь. Тым не менш манастыры адыгрывалі адну з вядучых роляў у царк.-рэліг. жыцці Полаччыны. Некаторыя з іх (у прыватнасці, манастыр св. Іаана Прадцечы на Востраве) валодалі значнымі бібліятэкамі. Настаяцелі манастыроў св. Міхаіла на Гарадцы, св. Іаана Прадцечы на Востраве і св. Пятра ў замку прымалі ўдзел у Віленскім саборы правасл. царквы ВКЛ 1508—09. Прывілеем ад 20.1.1582 кароль Стафан Баторый перадаў зямельныя ўладанні полацкіх правасл. манастыроў *Полацкаму езуіцкаму калегіуму*. Аднак і ў пазнейшы час тут дзейнічалі правасл. манастыры, у прыватнасці *Полацкі Богаяўленскі манастыр*, з якім былі звязаны жыццё і дзейнасць Сімяона Полацкага. У 17—18 ст. існавалі уніяцкія Бельчыцкі Барысаглебскі і Сафійскі манастыры. З цягам часу дзякуючы ў першую чаргу падтрымцы дзярж. улады ў Полацку з'явіліся каталіцкія кляштары, пазіцыі якіх узмацняліся. Першым быў заснаваны *Полацкі кляштар бернардзінцаў*, потым калегіум езуітаў, пазней — *Полацкі кляштар францысканцаў*. Мураваныя манастырскія будынкі часткова захаваліся да нашага часу.

*Літ.*: Историко-юридические материалы. Вып. 2. Витебск, 1871; Сапунов А.П. Витебская старина. Т. 5. Витебск, 1888; Полоцкая ревизия 1552 года / Подг. И.И.Лаппо. М., 1905; Описание полоцких владычных, монастырских и церковных земель ревизорами 1580 года / Подг. И.И.Лаппо. М., 1907; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. / Подг. А.Л.Хорошкевич. Вып. 1—6. М., 1977—89; Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Трусаў А.А. Бельчыцкі манастыр // Бел. гіст. часопіс. 1993. № 1; Гліннік В. «... и богомерских же латин ... расплени и расточи»: Невядомая познегатычная выява полацкай трагедыі 1563 г. // Спадчына.

2006. № 1; Дук Д.У. Лакалізацыя асобных тапаграфічных аб'ектаў Полацка XVI—XVII стст. // Бел. гіст. часопіс. 2006. № 6.

***Васіль Варонін.***

**Поле**, гл. *Дзікае поле.*

**поле**, дробная адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Было каля 100 П. у Віленскім, Ковенскім (у 17 ст. вядомы 23 П.), Упіцкім (у 1690 было 66 П.), Браслаўскім (у 1690 — 6 П.) паветах, Жамойці. Часам П.назвалася «род», «ваколіца», «воласць», у інш. выпадках П. ахоплівала некалькі родаў.



Герб **Полацкага каралеўства** з тытульнага ліста кнігі «Статуты Польскага каралеўства». 1563.

**Польскае каралеўства**, дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе, у басейне рэк Вісла, Варта, Одра і Зах. Буг, на Пн ад Карпацкіх гор. Тэр. Польшчы — адзін з асн. асяродкаў слав. этнагенезу, адкуль слав. плямёны рассяліліся на інш. тэрыторыі, у т.л. на У. У выніку аб'яднання племянных саюзаў да канца 10 ст. склаўся польскі этнас, і за дзяржавай, што сфарміравалася на яго аснове ў пач. 11 ст., замацавалася назва Польшча. Этнічная аснова польскага этнасу — племянныя групы палян, гаплян, слянзян, віслян, мазаўшан, памаран і інш. зах.-слав. плямён. Утварэнне ў 1000 *Гнезненскай мітраполіі* і прыняцце Баляславам I Храбрым з дынастыі Пястаў каралеўскай кароны ад рымскага папы ў 1025 зацвердзілі самастойнасць і незалежнасць Польшчы. Аднак у 11—13 ст. адбываўся працэс феад. раздробленасці Польшчы, і яе ўладары нават страцілі каралеўскі тытул, а Польшча падзялілася на некалькі ўдзельных княстваў. Толькі ў пач. 14 ст. вялікапольскаму кн. Уладзіславу I Лакетку ўдалося аб'яднаць большасць польскіх зямель і ў 1320 каранавацца каралеўскай каронай. Далейшае аб'яднанне польскіх зямель праводзіў яго сын *Казімір III* Вялікі [1333—70]. З гэтага часу аднавілася назва дзяржавы — П.к. Аднак яно страціла Сілезію і Памор'е. Вял. небяспекай стала агрэсія *Тэўтонскага ордэна.* Таму істотнай з'явай стаў саюз супраць агульнай небяспекі з ВКЛ — *Крэўская унія 1385* — і абранне каралём *Ягайлы* (Уладзіслаў II), які ажаніўся з польскай каралевай *Ядвігай. Гарадзельская унія 1413* замацавала саюз П.к. і ВКЛ. З сярэдзіны 15 ст. звычайна вял. князі, якіх абіралі ў ВКЛ з дынастыі Ягелонаў, выбіраліся на сеймах у П.к. польскімі каралямі. Вышэйшай уладай у П.к. стаў шляхецкі сейм, які дамогся замацавання ў шэрагу прывілеяў пануючага становішча шляхты ў дзяржаве (Няшаўскія статуты 1454 і інш.). Вял. значэнне для П.к. мела сумесная з войскамі ВКЛ перамога ў *Грунвальдскай бітве 1410*, у выніку якой быў разгромлены Тэўтонскі ордэн і спынена крыжацкая агрэсія. У 1526 да П.к. было далучана Мазавецкае княства, і ў 1596 сталіца была перанесена з Кракава ў Варшаву.

Новы этап развіцця П.к. пачаўся ў выніку заключэння з ВКЛ *Люблінскай уніі 1569*, у выніку якой была ўтворана федэратыўная дзяржава — *Рэч Паспалітая*, фактычна шляхецкая рэспубліка з абіраемымі пажыццёва каралямі і агульным соймам, які прымаў законы асобна для П.к., асобна для ВКЛ. П.к. мела сваю ўласную выканаўчую ўладу, заканадаўства, фінансы, войска, адміністрацыю. У 16 ст. ў П.к. пашырылася Рэфармацыя, якая прычынілася да развіцця нац. пісьменства і школы. У час існавання Рэчы Паспалітай ўзмацніліся культ. і дзярж. сувязі паміж П.к. і ВКЛ. Польскія войскі разам з войскамі ВКЛ удзельнічалі ў войнах Рэчы Паспалітай. Спецыфікай знешняй палітыкі П.к. быў асобы кірунак на Пд,




Да арт. **Польскае каралеўства**. Кракаў. Размаляваны дрэварыт з кнігі Г.Шэдэля «Сусветная хроніка». Нюрнберг. 1493.




Да арт. **Польскае каралеўства**. Варшава. Размаляваная гравюра з кнігі Г.Брауна і Ф.Гогенберга «Гарады свету». Кёльн. 1581.

войны на Украіне, з Крымскім ханствам і Турцыяй. Ужо ў 1340-х г. да П.к. была далучана Галіцкая Русь, а за зах. частку Валыні ў П.к. былі пастаянныя канфлікты з ВКЛ. Далучэнне ўкр. ваяводстваў да П.к. адбылося ў час заключэння Люблінскай уніі 1569 з дапамогай укр. шляхты, якая атрымала больш шырокія правы польскай шляхты. Гэта дапамагло бараніць укр. землі ад пастаянных нападаў крымскіх татараў. Аднак засяленне паўд. рубяжоў Украіны польскай шляхтай, яе канфлікты з укр. казацтвам прывялі да пастаянных нац.-рэліг. канфліктаў на Украіне, што істотна ўплывала на ўнутр. і знешнюю палітыку П.к. і ўсёй Рэчы Паспалітай. Асабліва жорсткімі ваенныя канфлікты на Украіне сталі з сярэдзіны 17 ст., калі ў іх умяшалася Маскоўская дзяржава. У 18 ст. суседнія манархіі — Расія, Прусія, Аўстрыя, а таксама Швецыя і Францыя пастаянна ўмешваліся ва ўнутр. справы П.к. Спробы рэформ у 2-й пал. 18 ст. перапыняліся Расіяй і Прусіяй. У выніку 3 падзелаў Рэчы Паспалітай 1772, 1793 і 1795 П.к., як і ўся Рэч Паспалітая, было ліквідавана, а яго тэрыторыі далучаны да Прусіі і Аўстрыі.

*Літ.*: Gloger Z. Geografia historyczna ziem dawnej Polski. Kraków, 1903; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. Warszawa, 1976; Samsonowicz H. Historia Polski do roku 1795. 5 wyd. Warszawa, 1990; Краткая история Польши: С древнейших времен до наших дней. М., 1993; Kamiński A.S. Historia Rzeczypospolitej wielu narodów, 1505—1795. Lublin, 2000; Kłoczowski J. Historia Polski do końca XV wieku. Lublin, 2000.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**«Польшча і Масква ў першай палове XVII стагоддзя»** («Polska a Moskwa w pierwszej połowie wieku XVII»), зборнік матэрыялаў пра адносіны Рэчы Паспалітай з Расіяй у пач. 17 ст. Выдадзены А.Гіршбергам у Львове ў 1901. У выданні ўпершыню надрукаваны поўнасцю на аснове 3 рукапісаў 17—18 ст. дыярыуш В.Дыяментоўскага, члена світы Е.Мнішка ў час яго паездкі ў Маскву на шлюб Марыны Мнішак з Ілжэдзмітрыем І і знаходжання ў Расіі (1605—09; паводле інш. даных, аўтарства належыць А.Ражнятоўскаму, а Дыяментоўскі валодаў адной з копій дыярыуша). У зборніку апублікаваны дзённік дзеянняў у 1608—11 Я.П.Сапегі, старасты ўсвяцкага, камандзіра асобнага атрада шляхты, што дзейнічаў на тэр. Расіі на карысць Ілжэдзмітрыя II. Дзённік напісаны сакратаром Сапегі на польскай мове і праўлены апошнім уласнаручна. Тэкст надрукаваны з арыгінала з Дзярж. архіва ў Стакгольме. Да дзённіка прыкладзена інструкцыя Сапегі сваім паслам, якія вялі перагаворы з каралеўскімі пасламі (1609), і 2 лісты Сапегі да войска (1611). Змешчаны таксама дыярыуш рас. пасольства ў Варшаву, якое было адпраўлена да Жыгімонта III з мэтай абмеркаваць умовы абрання на рас. трон каралевіча Уладзіслава. Тэкст надрукаваны з копіі на рус. мове, зробленай лац. літарамі, з Дзярж. архіва ў Стакгольме. Рукапіс мае дадаткі, якія таксама надрукаваны ў зборніку: лісты Уладзіслава да А.Гасеўскага, атаманаў Т.Чорнага, С.Круглага, Я.Шыша і інш. казакоў, адозва Уладзіслава да жыхароў Расіі (усе 1617), лісты смаленскага архіепіскапа Сергія да жыхароў Расіі, думнага дзяка В.Янава да думных чыноў, баяр Уладзіслава да насельніцтва (усе 1618). Зборнік забяспечаны прадмовамі да надрукаваных крыніц, паказальнікамі асабістых імён і геаграфічных назваў, слоўнікам рус. выразаў. Выданне зроблена на высокім археагр. узроўні.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Помнікі, выдадзеныя Часовай камісіяй для разбору старажытных актаў»** («Памятники, изданные Временною комиссиею для разбора древних актов, высочайше учрежденною при киевском военном, подольском и волынском генерал-губернаторе»), публікацыя дакументаў канца 15—18 ст. па гісторыі Украіны і Беларусі. Выдадзены ў 4 тамах у Кіеве ў 1845—59. Дакументы паходзяць з манастырскіх і царк. архіваў, Метрыкі ВКЛ, актавых кніг гродскіх і земскіх судоў 16 ст., прыватных збораў (архіва князёў Сангушкаў у Славуце, Храптовічаў у Шчорсах, К.Свідзінскага і інш.). Матэрыялы кожнага тома размеркаваны па 3 аддзелах: дакументы царк. арг-цый, феад. землеўладання і гаспадаркі, па гісторыі казацкіх войнаў сярэдзіны 17 ст. і вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У т. 1 змешчаны прыватныя акты 15—16 ст., «Устава на людзей пахожых у Віцебскім і Полацкім ваяводствах» 1551, у т. 2 — «Устава на валокі» 1557 (паводле спісаў Метрыкі ВКЛ і Свідзінскага), дадатковыя артыкулы да яе 1557—58, «Устава на падводы» 1558, у т. 3 — інвентары феад. уладанняў, у т.л. Палескай валасці Пінскага пав. Дакументы надрукаваны на царк.-слав., укр., бел. (царк.-слав. шрыфтам), польскай мовах з паралельным перакладам на рус. мову. Пры паўторным выданні т. 1—3 (Кіеў, 1897—98, рэдактар А.І.Лявіцкі) выпраўлена чытанне некаторых дакументаў, царк.-слав. шрыфт заменены грамадзянскім, т. 3 дапоўнены новымі дакументамі. У т. 4 змешчаны імянны, геаграфічны і прадметны паказальнікі. Матэрыялы выдання — важная крыніца для вывучэння сац.-эканам. і паліт. гісторыі Украіны і Беларусі.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Помнікі гісторыі Усходняй Еўропы: Крыніцы XV—XVII стст.»** («Памятники истории Восточной Европы:

Источники XV—XVII вв.», «Monumenta historica res gestas Europae Orientalis illustrantia: XV—XVII saec.»), серыйная публікацыя гістарычных дакументаў, што асвятляюць гісторыю Цэнтр. і Усх. Еўропы ў новы час, асабліва польска-рас. адносіны 16—17 ст. Заснавальнік — Гіст. ін-т Варшаўскага ун-та, рэдактар серыі І.Граля. У праекце таксама ўдзельнічаюць Рас. дзярж. архіў стараж. актаў, выдавецтвы «Археографический центр», «Древлехранилище» (Масква), Рас. нац. б-ка і інш. У т. 1 «Кніга сеунчаў 1613—1619 гг. Дакументы Разраднага прыказа пра паход Лісоўскага (восень—зіма 1615 г.)» (Масква; Варшава, 1995), падрыхтаваным А.А.Станіслаўскім, С.П.Мардовінай і Б.М.Флорам, змешчаны 2 комплексы дакументаў, якія адносяцца да часоў *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. У т. 2 «Выпіска з пасольскіх кніг» пра адносіны Расійскай дзяржавы з Польска-Літоўскай за 1487—1572 гг.» (Масква; Варшава, 1997) апублікавана падрыхтаваная Б.М.Марозавым архіўная даведка 16 ст. пра ранейшыя адносіны Расіі з Польшчай і ВКЛ. У т. 3 «Дакументы Лівонскай вайны (сапраўднае справаводства прыказаў і ваявод) 1571—1580 гг.» (Масква; Варшава, 1998), складзеным Граляй, М.Ф.Дзямідавым, Флорам і Ю.М.Эскіным, змешчаны аўтэнтычныя рас. дакументы заключнага этапу *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У т. 4 «Крыжапрыводная кніга шляхты Вялікага княства Літоўскага 1655 г.» (Масква; Варшава, 1999) апублікаваны падрыхтаваныя А.Я.Лыкавай і М.Кулецкім спісы літ. і бел. шляхты, якая ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* прысягнула ў 1655 на занятых тэрыторыях цару Аляксею Міхайлавічу. У т. 5 «Руская (Валынская) метрыка: Кніга за 1652—1673 гг.» (Астрог; Варшава; Масква, 1999) змешчана падрыхтаваная П.Кулакоўскім адна з кніг Рускай (Валынскай) метрыкі. У т. 6 «Радзівілаўскія акты са збору Расійскай нацыянальнай бібліятэкі: Першая палова XVI ст.» (Масква; Варшава, 2002), складзеным М.М.Кромам, надрукавана 97 дакументаў 1513—40, што паходзяць з архіваў Радзівілаў і асвятляюць унутранае становішча ВКЛ і важныя падзеі міжнар. жыцця, у асноўным *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37*. У т. 7 «Пасольская кніга па сувязях Расіі з Польшчай (1575—1576 гг.)» (Масква; Варшава, 2004), падрыхтаваным Л.В.Собалевым, апублікавана рас. пасольская кніга часоў Інфлянцкай вайны. Тамы серыі забяспечаны грунтоўнымі прадмовамі, каментарыямі, імяннымі і геаграфічнымі паказальнікамі.

**«Помнікі літоўскага права»** («Lietuvos teisės paminklai»), серыйная публікацыя юрыдычных помнікаў ВКЛ. У т. 1 «Судовыя кнігі Біржанскага маёнтка» (Вільнюс, 1982) выдадзены падрыхтаваныя В.Раўдзялюнасам і Р.Фірковічусам судовыя кнігі патрыманіяльнага суда князёў Радзівілаў у *Біржанскім княстве* за 1693—1711 і 1709—1718, а таксама фрагменты кніг 1620—1745. Т. 2 «Суды над ведзьмамі ў Літве» (Вільнюс, 1987) падрыхтаваны К.Яблонскісам і Р.Ясасам, змяшчае акты матэрыял 16—18 ст., прысвечаны юрыд. праследаванню ў ВКЛ чарадзейства. Т. 3 «Рашэнні Галоўнага Літоўскага Трыбунала» (Вільнюс, 1988) падрыхтавалі Раўдзялюнас і А.Балюліс. У кнізе апублікаваны 110 дэкрэтаў *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* 1583—1655, у дадатку — спісы маршалкаў і пісараў Трыбунала і 2 упісы ў кнігі Трыбунала 1582. Т. 4 «Судовыя кнігі Жагарскага маёнтка (1670—1751)» (Вільнюс, 2003) падрыхтавалі Раўдзялюнас, Балюліс, Фірковічус; у ім змешчаны судовыя дакументы патрыманіяльнага суда ў мяст. Жагары ў Жамойці. Ва ўсіх тамах дакументы апублікаваны на мове арыгіналаў (старабел. і польскай). Выданні забяспечаны імяннымі, геаграфічнымі і прадметнымі паказальнікамі.

**«Помнікі праваслаўя і рускай народнасці ў Заходняй Расіі ў XVII—XVIII стст.»** («Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII—XVIII вв.»), археаграфічнае выданне дакументаў па гісторыі праваслаўнай царквы Украіны і Беларусі ў 17—18 ст. Падрыхтаваў Ф.І.Цітоў. Выйшаў т. 1, ч. 1—3 (Кіеў, 1905). У ч. 1 змешчаны вял. нарыс Цітова пра праваслаўныя манастыры Кіеўскай епархіі 17—18 ст., што знаходзіліся на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Дакументы ўзяты з архіваў Кіеўскай духоўнай кансісторыі, архіва Свяцейшага Сінода, Дзярж. архіва ў С.-Пецярбургу, Пецярбургскага і Маскоўскага гал. архіваў Міністэрства замежных спраў, Ваеннавучонага архіва Гал. штаба, Маскоўскай сінадальнай б-кі, Друкарскай б-кі ў Маскве, Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі, Румянцаўскага музея ў Маскве, Гал. архіва Царства Польскага, Віленскага і Кіеўскага цэнтр. архіваў, архіва Кіева-Пячэрскай лаўры, б-кі Кіеўскага Сафійскага сабора, б-кі Кіеўскай духоўнай акадэміі, архіваў Магілёва, Львова, Кракава, Дрэздэна. Усяго змешчана 746 дакументаў за 1685—1795 на польскай, рус., укр. і бел. мовах. Яны асвятляюць гісторыю правасл. цэркваў, манастыроў і брацтваў Украіны і Беларусі, іх барацьбу супраць уніі, унутраны лад жыцця, гаспадарчую і культурную дзейнасць. Сярод надрукаваных дакументаў перапіска кіеўскага мітрапаліта, епіскапаў, ігуменаў манастыроў, рас. рэзідэнта ў Варшаве, Сінода, гаспадарчыя дакументы. Выданне забяспечана картай правасл. манастыроў у Рэчы Паспалітай, імянным, геаграфічным і прадметным паказальнікамі.



Герб **«Помян»**.

**«Помян»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 130 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Асецкія, Багаткі, Брудзеўскія, Грабскія, Макавецкія, Рацэнскія, Саковічы. У залатым полі выява чорнай галавы зубра, прабітай наўскос мячом; клейнод — над прылбіцай з каронай сярэбраная рука ў даспехах з мячом. Вядомы з пач. 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**попісы войска**, попісы шляхты, вайсковыя мерапрыемствы ў ВКЛ па рэгістрацыі і падліку ўзброеных ненайманых сіл дзяржавы. Першы попіс, матэрыялы якога захаваліся, праведзены згодна з ухвалай Віленскага сойма 1528. Паводле яе землеўласнікі з 8 *службаў* выстаўлялі ў войска аднаго вершніка, усяго былі ўлічаны 19 842 коннікі. Статут ВКЛ 1529 у раздзеле «О обороне земской» апісаў абавязкі шляхты па ўдзеле ў попісах, зазначыў, што дробная шляхта, якая не мае вял. уладанняў або падданых наогул, павінна асабіста адпраўляцца ў войска. Вызначыў, каб шляхціцы ставалі на попісы толькі пад сваёй павятовай *харугвай*; асобы, якія служаць панам-радам ці ўраднікам, павінны замяніцца з чалавекам «войны не повинным»; якія служаць князям ці панам і маюць гаспадарскія маёнткі, павінны пакінуць свайго пана і ставаць пад павятовай харугвай. Матэрыялы попісу 1534, звязанага з *вайной Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1534—37*, не захаваліся. Віленскі сойм 1563 пастанавіў, каб шляхта выстаўляла ў войска конніка з 10 службаў. У 1565 у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* адбыўся попіс «у полі» з мэтай улічыць шляхту, што сабралася на вайну. Статут ВКЛ 1566 вызначыў, што шляхта збіраецца ў войска па павятовых харугвах, пад кіраўніцтвам *маршалкаў*, у цэнтр. паветах ваяводстваў — *кашталянаў*. Уласна харугва (сцяг) выдавалася з гаспадарскага скарбу. У 1567 Гарадзенскі сойм вызначаў парадак *паспалітага рушэння* і склікання ў войска шляхты, а вял. князь некалькімі лістамі да шляхты загадаў «до Молодечна днём и ночью, яко на кгвалт поспешаючися», сабрацца для працягу вайны. Каля Краснага Сяла (цяпер в. Краснае Маладзечанскага р-на) з 26.6.1567 да лют. 1568 быў праведзены попіс, які зафіксаваў 27 776 коннікаў. Статут ВКЛ 1588 устанаўліваў, што попіс праводзіцца ў час збору шляхты на вайну. Відаць, попіс быў праведзены ў ВКЛ у 1601, вядомы его вынікі па Віленскім ваяв. Соймавая канстытуцыя 1607 вызначыла, што павятовыя попісы павінны праходзіць кожны год паводле норм пастановы Віленскага сойма 1563. Канстытуцыя 1613 устанавіла, што попісы павінны адбывацца 8 вер. праз 2 гады пры гарадах, замках і каралеўскіх дварах (месцах, дзе звычайна праходзілі суды і соймікі). У цэнтр. павеце ваяводства шляхта павінна была ставаць перад *ваяводам*, кашталянам і *харужым*, у інш. паветах — перад маршалкам, харужым і *войскім*. Попіс не павінен быў працягвацца больш як 4 дні, кожны шляхціц мог мець почат (суправаджальны атрад), колькі хоча. Нез'яўленне на попіс каралася штрафам 200 коп грошаў. Шляхта Берасцейскага і Віцебскага ваяв., Ашмянскага і Ковенскага пав. пастанову 1613 «узялі да браці» (параіцца). Канстытуцыя 1616 зноў вызначыла попіс паводле пастановы 1563. Канстытуцыя 1620 зазначыла, каб 3.5.1621 кожны шляхціц «папісаўся», і гэтак кожны год, пакуль ідзе вайна з Турцыяй. Бедныя шляхціцы павінны былі разам складацца на рыштунак і добрага каня (гл. *Пешая шляхта*). Пастанову «ўзялі да браці» паслы з Жамойцкай зямлі, Ковенскага, Упіцкага, Троцкага і Гарадзенскага пав. У 1627 шляхта Навагародскага ваяв. ўстанавіла для сябе днём попісу 25 мая. На сойме 1629 адноўлена канстытуцыя 1620, але большасць шляхты ВКЛ яе «ўзяла да браці». Канстытуцыя 1650 устанавіла, што попісы ў ВКЛ будуць адбывацца праз 4 гады на свята св. Міхала (29 вер.). Генеральная канфедэрацыя ВКЛ 1764 вызначыла, што попісы павінны адбывацца праз 2 гады раніцай на св. Міхала. Было зазначана, што попісу падлягае кожны шляхціц; тым, хто мае ўладанні ў розных паветах, дастаткова «папісацца» ў адным. Рэестры ўносіліся ў актавыя кнігі адпаведных паветаў. Было зазначана, што попісныя рэестры шляхецтва не пацвярджаюць. Попіс 1765 з'яўляецца адзіным даволі поўным спісам шляхецкіх родаў ВКЛ, бо быў праведзены на ўсёй тэр. дзяржавы. Дакументацыя попісаў — каштоўная крыніца па сац.-эканам., вайсковай гісторыі ВКЛ, генеалогіі, гіст. геаграфіі. Матэрыялы попісаў 16 ст. апублікаваны ў 1915 С.Л.*Пташыцкім*, попіса 1528 — А.І.*Грушам*, М.Ф.*Спірыдонавым* і М.А.Вайтовічам у 2003, попіс 1765 выдадзены часткова.



**Попіс войска** ВКЛ 1567.

*Публ.*: Русская историческая библиотека. Т. 33. Пг., 1915; Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года: Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523. Кніга публічных спраў 1. Мн., 2003; Mienicki R. Rejestr popisowy województwa połockiego z dn. 30 IX 1765 // Ateneum Wileńskie. 1936. R. 11.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 664—676; Łowmiański H. Popisy wojska Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI w. jako źródło do dziejów zaludnienia // Medievalia: W 50 rocznicę pracy naukowej Jana Dąbrowskiego. Warszawa, 1961; Яго ж. Zaludnienia państwa litewskiego w wieku XVI. Zaludnienie w roku 1528. Poznań, 1998; Грицке-

в и ч А.П. Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.) // Вопр. истории. Мн., 1978. Вып. 5; М е н ж и н с к и й В.С. Структура феодального землевладения Великого княжества Литовского: (По материалам Переписи войска 1528 г.) // История СССР. 1987. № 3; С п и р и д о н о в М.Ф. Перепись войска Великого княжества Литовского 1567 г. как источник по истории поселений Белоруссии // Литовская Метрика: Исслед. 1988 г. Вильнюс, 1992.

***Уладзіслаў Вароўкін-Шэлюта.***

**Поразава** (цяпер гарадскі пасёлак у Свіслацкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ваўкавыскім пав. Вядома з 1460(?), калі Ян Рынвід заснаваў там касцёл Пятра і Паўла. У 1506 вял. кн. Аляксандр прызначыў у П. войта, вызваліўшы мястэчка з-пад улады ваўкавыскіх дзяржаўцаў, а пасля, відаць, даў П. магдэбургскае права. 29.6.1518 паўторна атрымала магдэбургскае права, якога дамогся мясцовы войт, але па жаданні мяшчан прывілей скасаваны. 27.3.1523 зноў атрымала магдэбургскае права, у 1616 — герб з выявай Найсвяцейшай Панны Марыі з дзіцем Ісусам на руках. Пацярпела ад пажару 1767. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.


Герб **«Порай»**.

**«Порай»**, «Р у ж а», прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 250 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Бярнацкія, Ваўжэцкія, Гедройцы, Малдрыкі, Міцкевічы, Немаеўскія. У чырвоным полі выява сярэбранай 5-пялёсткавай ружы з зялёнымі лістамі; клейнод — над прылбіцай з каронай такая самая ружа. Вядомы з сярэдзіны 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**почат**, вайсковае фарміраванне, на чале якога выступаў на земскую службу (ці на агляд) буйны землеўладальнік. Складаўся з асабіста залежных або нанятых феадалам для службы людзей.

**пошта** (польск. Poczta, італьян. posta ад позналац. posita прыпынак, станцыя, дзе мянялі коней), від сувязі, які здзяйсняе рэгулярную перасылку паштовых адпраўленняў — пісьмовай карэспандэнцыі, перыядычных выданняў, грашовых пераводаў, бандэролей, пасылак — пераважна з дапамогай транспартных сродкаў. У ВКЛ у 14—15 ст. існавала паштовая княжацкая служба — ганцы. Вял. і ўдзельныя князі трымалі ганцоў для перасылкі ўказаў, паведамленняў як вусных, так і пісьмовых. Пад 1539 бел. летапісы згадваюць т.зв. «пісьманосцаў». Першыя паштовыя ўстановы ў ВКЛ створаны ў 1558 намаганнямі вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста. Пачалося будаўніцтва паштовых дарог, станцый (праз кожныя 3—7 вёрст) і корчмаў. Пры корчмах абавязкова былі дапаможныя памяшканні — стадолы (стайні) для адпачынку коней, а ў корчмах памяшканні для падарожных. Аб такіх корчмах на бел. землях у 16 і 18 ст. згадвалі С.*Герберштэйн* і Б.*Танер*. Сяляне дзярж. і прыватных вёсак павінны былі выконваць *падводную павіннасць*. У ВКЛ існавала таксама і падарожная павіннасць, па якой насельніцтва абавязана было падтрымліваць дарогі ў належным стане. У Статуце ВКЛ 1566 спецыяльна агаворваўся памер дарог: «Уставуем иж дороги звечные мають быти водле стародавнего обычаю так широки, абы два воз форманиских разминулися». З 1558 наладжана пастаянная сувязь паміж Варшавай і Вільняй. У 1568 на ўтрыманне ганцоў, перавозку паслоў і дзярж. асоб уведзены «ганецкі падатак» з гарадоў і мястэчак. У 1583 кароль Стафан Баторый увёў плату за пісьмы па іх вазе (існавала да сярэдзіны 17 ст.). У канстытуцыі Варшаўскага сойма 22.11.1649 запісана, што «для дастаўкі звестак і навін, як у межах дзяржавы, так і ў замежныя дзяржавы, асабліва ў час вайны, мы лічым вельмі неабходнай пошту ў Вялікім княстве Літоўскім». У 1674 прынята рашэнне аб справаздачнасці гал. паштмайстра ВКЛ. У 1658 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* рас. паштовы ям быў пабудаваны ў Полацку. Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай усталёўвалася пашовая сувязь (арт. 6). Паштовы шлях пралягаў ад Масквы праз Смаленск да мяст. Мігнавічы, далей праз мяжу ВКЛ да мяст. Кадзін Мсціслаўскага ваяв., далей праз Магілёў і Менск на Вільню. Першая рас. П. ў Вільню была адпраўлена 11.3.1669. У снеж. 1707 прайшла першая П. па тракце Барысаў—Быхаў, у 1708 пабудаваны паштовыя дарогі Віцебск—Копысь, Быхаў—Чарнігаў (праз Гомель). У 1726 Гарадзенскі сойм прыняў рашэнне аб арганізацыі П. ў Навагародскім ваяв. У 1764 было ўведзена прыняцце прысягі паштмайстрамі ВКЛ пры ўступленні на пасаду. У 18 ст. ў ВКЛ гал. трактамі былі: Вільня—Трокі (і далей да Варшавы з адгалінаваннем на Бярэсце), Вільня—Менск—Магілёў (і далей да Масквы), Навагародак—Менск—Гародня—Вільня.

*Літ.*: D ą b k o w s k i P. Rys urządzeń pocztowych w dawnej Polsce. Kraków, 1903; К о л о с о в Л.Л. Почтовые дороги Белоруссии. Мн., 1982.

***Леў Коласаў.***

**прадмова**, уводная частка тэксту, у якой яшчэ не пачынаецца разгляд галоўнага прадмета. У адрозненне ад уводзін ці ўступу П. не ўваходзіць у сюжэт ці фабулу твора, выконвае функцыю пазафабульнай матывацыі чытача. П. з'яўляецца літ. творам і аналагічная *пасляслоўю*. Вядома з антычнасці, але з развіццём кнігадруку перажывае росквіт, што назіраецца і ў пісьменстве ВКЛ. Арыгінальныя П. стваралі аўтары твораў, выдаўцы, рэдактары ці друкары. Яны імкнуліся ў П. прыцягнуць увагу чытача да асн. твора і падрыхтаваць сваю аўдыторыю да ўспрымання складаных прадметаў. Таму П. магла мець значныя памеры, ускладняцца кампазіцыйна, тэматычна і стылістычна, атрымліваць праблемнасць. Нярэдка ў П. 16—17 ст. абмяркоўваюцца актуальныя пытанні сац.-паліт., рэлігійнага і культурнага жыцця, выказваюцца погляды асоб і сац. груповак, выкладаюцца веды і новыя ідэі. У якасці П. выкарыстоўваліся і творы іншых жанраў: вершы, прамовы, малітвы, трактаты, П. магла суправаджацца эпіграфам. Асобны від П., прысвечанай

ці адрасаванай мецэнату, — дэдыкацыя. Да асобнага віду П. набліжаўся і зварот да чытача, звычайна невялікага памеру. Кніга магла мець некалькі П., якія адрозніваліся сваёй функцыяй і адрасаванасцю або дасылаліся да розных частак выдання. Паводле стылістыкі і мовы П. магла адрознівацца ад асн. твора: так, пры выданні рэлігійных тэкстаў на царк.-слав. мове часам змяшчалася П. на старабел. мове, радзей наадварот. П. звычайна мела загаловак, часам падпісвалася і датавалася. З развіццём кнігадруку са складу П. вылучыліся: змест раздзелаў кнігі, пералік памылак друку, выхадныя звесткі.

*Публ.*: Тітов Х. Матеріяли для історії книжної справи на Вкраїні в XVI—XVIII вв.: Всезбірка предмов до українських стародруків. Київ, 1924 (2 вид., Köln; Wien, 1982); Скарына Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. Мн., 1990; Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. Мн., 1991.

***Ігар Клімаў.***

**пракуратар** (лац. procurator), прафесійны юрыст-паверараны ў ВКЛ, які займаўся адвакацкай практыкай. Абавязкі П. мог выконваць толькі шляхціц, які ведаў мясцовае права і быў дапушчаны судом да адвакацкай дзейнасці. Статут ВКЛ 1588 прадугледжваў крымінальную адказнасць П. за парушэнне сваіх абавязкаў (напр., за здраду інтарэсам боку, які яго наняў). Для найб. бедных людзей П. мог прызначацца судом бясплатна.

**«Прамова Мялешкі»**, літаратурны твор 1-й пал. 17 ст., у якім у форме соймавай прамовы, прыпісанай мсціслаўскаму (пазней смаленскаму) кашталяну І.І.*Мялешку*, намаляваны сатырычны абразок старасвецкага жыцця бел.-укр. шляхты. Галоўнаму персанажу ўласціва ксенафобія, сквапнасць, зайздрослівасць, кансерватызм у побыце і поглядах, часам аж да гратэскава падкрэсленага абскурантызму. Ён замілаваны старыною і патрыярхальным ладам жыцця, востра не прымае новага, хаця і вымушаны прыстасоўвацца да яго. «П.М.» напісана жывой, трапнай і вобразнай старабел. мовай, з багатымі фальклорнымі рысамі, з мноствам побытавых дэталяў. Твор пабудаваны ў выглядзе прамовы, якую нібыта трымае гал. персанаж на сойме ў Варшаве перад каралём Жыгімонтам III. Упершыню «П.М.» апублікавана ў 1819 Ю.Нямцэвічам у перакладзе на польскую мову. На рукапісаных бел. крыніцах грунтуюцца публікацыі М.Вішнеўскага і В.Ластоўскага; крыніца публікацыі М.Кастамарава 1865, тэкстуальна блізкая да варыянта Вішнеўскага, але ўкраінізаваная ў мове, невядомая. У 20 ст. твор шмат разоў выдаваўся на падставе гэтых публікацый. Спробу крытычнага выдання твора разам з рэканструкцыяй яго архетыпу паводле 6 рукапісаў 18 ст. зрабіў Б.Струмінскі. Некаторыя даследчыкі (асабліва ў 19 ст.) лічылі твор гіст. дакументам, што фіксуе рэальную прамову шляхціча Мялешкі са Слонімшчыны. Большасць вучоных (М.Сумцоў, Я.Карскі, З.Даўгяла і інш.) прызнае «П.М.» літ. творам, хаця дапускае магчымасць падобнага выступлення Мялешкі на сойме. Такую прамову ці час узнікнення твора Вішнеўскі датаваў 1589, Даўгяла — каля 1630, Крапівін — 1622—32, Струмінскі — 1615—18. Большасць інтэрпрэтатараў 20 ст. бачаць у творы паліт. памфлет, накіраваны супраць пануючых вярхоў, польскай культурнай экспансіі, нац. нігілізму апалячанай бел. і ўкр. шляхты. Галоўнаму персанажу прыпісваюцца патрыятызм, народны светапогляд і гумар.

*Публ.*: Niemcewicz J.U. Zbiór pamiętników historycznych o dawnej Polsce. Warszawa, 1819. T. 2. S. 341—344; Wiszniewski M. Historja literatury polskiej. Kraków, 1851. T. 8. S. 480—484; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. СПб., 1865. Т. 2. С. 188—190; Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна, 1926. С. 447—449; Struminsky B. Pseudo-Melesko: A Ukrainian Apocryphal Parliamentary Speech of 1615—1618. Cambridge (Mass.), 1984.

*Літ.*: Сумцов Н.Ф. Речь Ивана Мелешка как литературный памятник // Киевская старина. 1894. Т. 45. № 5; Даўгяла З.І. Зь беларускага пісьменства XVII ст.: Творы Цыпрыяна Камунякі «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі» // Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэту ў Менску. 1927. № 16.; Крапивин П.К вопросу о времени появления «Речи Ивана Мялешки» и ее авторства // Изв. АН БССР. 1955. № 5; Маховець Л.Є. Сатира і гумор української прози XVI—XVIII ст. Київ, 1964. С. 380—383; Пра шкович Н. «Прамова Мялешкі» и «Ліст да Абуховіча» — новый этап в истории белорусской литературы // Тр. Отдела древнерусской литературы. Л., 1969. Т. 24.

***Ігар Клімаў.***

**прапінацыя** (ад лац. propinatio здравіца), выраб і продаж моцных спіртных напіткаў. У часы феадалізму права П. вынікала з права ўласнасці на зямлю і на прадукцыйныя рэсурсы ўладанняў. У Польшчы і ВКЛ у 13—15 ст. права П. набыло характар манаполіі землеўласнікаў і дзярж. рэгаліі, якая магла здавацца ў арэнду (на водкуп). Права вольна варыць і прадаваць (шынкаваць, адсюль назва шынок) мёд, піва і гарэлку землеўладальнікі Кароны Польскай атрымалі паводле Пётркаўскага прывілея 1496 караля Яна Ольбрахта. Пасля ўтварэння ў 1569 Рэчы Паспалітай гэта права было пашырана і на шляхту ВКЛ. Статут ВКЛ 1588 забараняў таемны выраб і продаж моцных напіткаў, а іх шынкаванне дазвалялася толькі ў заезных дамах пры гасцінцах. Іх традыцыйна выраблялі ў хатах, лазнях, *броварах*, прадавалі ў *корчмах* і шынках. Для вытворчасці выкарыстоўвалі мёд, ячмень, жыта. Паколькі гандаль увогуле лічыўся справай не вартай шляхты, то яна перадавала шынкі ў арэнду. Традыцыйна шынкарамі выступалі яўрэі. Водкупная сістэма і вольная П. шляхты дазваляла ўласнікам корчмаў і іх арандатарам вызначаць аб'ёмы рэалізацыі моцных напіткаў, навязваць сваю прадукцыю па прымусовых цэнах, абмяжоўваць інш. вытворцаў квотамі або выключна хатнімі патрэбамі (на вяселле, хрэсьбіны, памінкі). Пры слабым дзярж. фіску вольная П. стала самай вял. крыніцаў даходаў феадалаў, вытокам п'янства і галечы падданых. Дзярж. скарб рэгуляваў П. ўскоснымі падаткамі (*капшчына, чопавае, шэлежнае*), якія вызначаліся на сойміках і ішлі пераважна на ўтрыманне войска. Падаткі вызначаліся з аб'ёму вытворчасці (з катла, чана, анкера) і продажу (з бочкі, кварты, чаркі, штофа), радзей — з кошту рэалізацыі (са злотага). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) рас. ўрад пазбавіў дробную шляхту права на вольную П. і захаваў яго за ўласнікамі сялян і мястэчак за спец. падатак з кожнай рэвізскай душы.

*Літ.*: Корсак А. О пропинационном праве в Западных губерниях. СПб, 1864; Pawiński A. Skarbowość w Polsce i jej

dzieje za Stefana Batorego. Warszawa, 1881; Б о у ф а л Б. О пропинационном праве в Западном крае и в царстве Польском // Журн. Юридического о-ва. СПб, 1896. Кн. 6; Д о в н а р - З а п о л ь с к и й М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; F i l i p c z a k - K o c u r A. Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587—1648. Wrocław, 1994; А н и щ е н к о Е.К. Черта оседлости. Мн., 1998.

*Яўген Анішчанка.*

**Прапойск** (цяпер Слаўгарад, горад, цэнтр Слаўгарадскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Мсціслаўскім ваяв., на р. Сож пры ўпадзенні р. Проня. Упершыню ўпамінаецца пад 1136. Уваходзіў у Смаленскае княства. У 13—18 ст. існаваў *Прапойскі замак* як цэнтр абароны горада. З 14 ст. ў складзе ВКЛ, дзярж. уладанне. У 1430 далучаны да ўладанняў князя троцкага і полацкага Свідрыгайлы. З пач. 16 ст. цэнтр *Прапойскага староства*. У 1601—02 пацярпеў ад голаду і эпідэмій. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**Прапойская воласць**, П р а п о й с к а е с т а р а с т в а, буйны дзяржаўны маёнтак. З пач. 16 ст. ёй кіравалі намеснікі, якім звычайна належала і суседняя *Чачэрская воласць*. Намеснік падпарадкоўваўся віленскаму ваяводу. На пасадзе намесніка прапойскага і чачэрскага ўпамінаюцца Я.Няміра (1510—11), М.Юр'евіч (1514), С.А.Чартарыйскі (1518—24), Ф.М.Вішнявецкі (1526—29), А.І.Дашковіч (да 1535), І.М.Вішнявецкі (1536—43), Ю.В.Насілоўскі (1543—44). У 1511 с. Лобча са складу П.в. падаравана ў пажыццёвае валоданне кн. М.І.Мсціслаўскаму, у 1529 зноў далучана да П.в. У размежаванні з Маскоўскай дзяржавай у 1526 упамінаецца шэраг сёл П.в., у т.л. размешчаных цераспалосна з суседняй *Крычаўскай воласцю* (Галоўчыцы, Чудзінавічы, Савінічы). З 1547 П.в. перададзена ў заклад Ю.Зяновічу. Паводле адм. рэформы 1566—66 уключана ў Рэчыцкі пав. Менскага ваяв. (ізаляваныя анклавы П.в., відаць, адносіліся да Аршанскага пав. і Мсціслаўскага ваяв.). Асн. часткай П.в. да 1590 кіравалі Зяновічы, потым — Солтаны, Слушкі, Красінскія, Заранкі, Незабытоўскія, Сапегі, Храптовічы, Масальскія, Бжастоўскія, Насілоўскія, якія насілі тытул намесніка (старасты). Некаторыя паселішчы (Азёры, Чудзінавічы і інш.) былі вылучаны ў асобныя староствы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, неўзабаве падаравана Кацярынай II кн. А.М.Галіцыну, пасля чаго ператварылася ў прыватны маёнтак.

*Вячаслаў Насевіч.*



Аўтар В.Л.Насевіч

**Прапойскі замак**, цэнтральнае ўмацаванне г. *Прапойск* у 13—18 ст. Займаў выцягнутае з Пн на Пд стараж. гарадзішча (95 × 40 м) на стромкім беразе Сажа, недалёка ад упадзення ў яго р. Проня. Паводле гіст. крыніц, у 14—17 ст. замак і горад мелі драўляныя ўмацаванні. У грамаце вял. кн. Жыгімонта І Старога ад 29.12.1518 адзначалася, што намеснік (кн. С.А.Чартарыйскі) «срубил нам у Пропойску замок тамошними людьми нашими Пропойчичаны и Чычераны, а к тому своим накладом збудовати нам ся поднял». За такую паслугу вял. князь задаволіў чалабітную князя аб перадачы яму ў трыманне гэтых зямель. У ваенны час у П.з. быў невял. пастаянны гарнізон з 10—20 казакоў на чале з ротмістрам. Гарнізон і замак існавалі за кошт часткі прыбыткаў са староства. Паводле велікакняжацкага распараджэння, як і ў інш. парубежных гарадах, у Прапойску з 1561 пачалі трымаць дадатковыя атрады коннікаў. Яны былі ўзброены найноўшай ручной агнястрэльнай зброяй — «губчастымі ручніцамі», якія цэнтралізавана пастаўляліся сюды з Вільні разам з амуніцыяй і гакаўніцамі. Акрамя казакоў замак і воласць павінны былі ахоўваць і мясцовыя баяры, што неслі конную службу «на самом рубеже». Першае ўпамінанне пра артылерыю ў П.з. адносіцца да 1529. Дакладная колькасць пушкароў у П.з. ў 16—17 ст. невядомая (у дакументах за 1567 называецца пушкар Міхаіл Лімоўскі). Для кантролю за станам П.з. велікакняжацкая ўлада пасылала сюды спец. рэвізораў і «правцов господарских». З іх перапіскі з вял. князем і з дакументаў за 1564 відаць, што ў П.з. былі драўляныя вежы і сцены, вежа-брама і пад'ёмныя масты-«ўзводы». Звесткі пра колькасць вежаў у П.з. адсутнічаюць. Па грэбені вала, які ішоў у паўд. напрамку, над абарончым ровам размяшчаліся замкавыя гародні. З Пд і У замак прыкрываўся стромкім 20-метровым абрывам у бок Сажа. Пасля разбурэнняў у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай1654—67* горад і замак доўга не маглі дасягнуць ранейшага стану. Аднак П.з. і пазней не страціў свайго ваеннага значэння. Інвентар 1681 зафіксаваў замак як невял. ўмацаванне, абгароджанае «палямі». Згадваюцца «брама, драницами крытая», «форта у паркане до воды», жылыя і гасп. пабудовы (хаты белыя, піўніца, 2 свірны, сыраварня, пякарня, 3 стайні, лазня, шопа). Перад замкам быў вял. агарод, абнесены «дылямі». У канцы 17—пач. 18 ст. ў выніку хуткага развіцця артылерыі і фартыфікацыі Прапойск страціў сваё стратэгічнае значэнне ў Пасожжы на мяжы з Рас. імперыяй, што поўнасцю пацвердзілася ў Паўн. вайну 1700—21. Аднак яшчэ ў 1780 тут упамінаўся «замок, окруженный полисадом». Пасля далучэння Усх. Беларусі да Рас. імперыі (1772) Прапойск быў падараваны Кацярынай II кн. А.М.Галіцыну. У канцы 18 ст. ў выніку праведзенай князем на пляцоўцы замчышча планіроўкі зніклі абарончыя валы і рэшткі стараж. замка.

**прасал**, у 17—19 ст. дробны гандляр, які гандляваў сваім таварам па вёсках і мястэчках. Статут магілёўскіх гандляроў 1636 адрозніваў П. ад купцоў і вызначыў іх як гандляроў, якія не гандлююць замежнымі таварамі, не ездзяць з айчыннымі таварамі (зробленымі ў ВКЛ і Польшчы) за мяжу, а набываюць іх на месцы і гандлююць імі наўкол Магілёва не далей як за 10 міляў, не прадаюць у Магілёве тавары гасцям (замежным купцам). У 2-й пал. 17 ст. магілёўскія П. вылучыліся ў асобны цэх (брацтва), які ўзначальвалі 2 старасты, 2 падстарасты, 6 паспалітых і 2 шафары (скарбнікі); іх выбіралі штогод.

*Літ.*: Д а ў г я л а З. Магілёўскае «брацтва прасалаў» // Гіст.-археал. зб. Мн., 1927. № 1.

**Праснякоў** Аляксандр Яўгенавіч [21.4(4.5).1870, г. Адэса, Украіна—30.9.1929), расійскі гісторык. Чл.-кар. Рас. АН (1920), праф. (1918). Скончыў Пецярбургскі ун-т. Даследаваў пытанні паліт. гісторыі Расіі, рус. летапісанне 16 ст. («Княжацкае права ў старажытнай Русі», 1909, «Утварэнне Велікарускай дзяржавы», «Маскоўскае царства», абодва 1918), рух дзекабрыстаў і народнікаў («14 снежня 1825 г.», 1926). Гісторыі ВКЛ прысвяціў «Лекцыі па рускай гісторыі» (т. 2, вып. 1, 1939). Лічыў, што пасля распаду Кіеўскай дзяржавы найб. значэнне ў гісторыі Стараж. Русі адыгралі Полацкае княства, Суздальская, Наўгародска-Пскоўская і Галіцкая землі, што Новагародак быў першым цэнтрам ВКЛ.

*Літ.*: Черепнин Л.В. Об исторических взглядах А.Е.Преснякова // Ист. записки. М., 1950. Т. 33.

**пратазан**, гл. *Партызана*.

**Пратасевіч** (Пратасевіч-Шушкоўскі) Валяр'ян (каля 1509, маёнтак Шушкова каля в. Крайск Менскага ваяв.—31.12.1579), дзеяч каталіцкай царквы ВКЛ. З баярскага роду герба «Дравіца». У 1532—44 пісар вялікакняжацкай канцылярыі, з 1566 адначасова плябан у Крожах, канонік у Жамойцкім, потым у Віленскім біскупстве. З 1544 пісар ВКЛ і сакратар вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста. Удзельнік шэрагу соймаў ВКЛ, займаўся дыпламатычнымі справамі. У 1549 прызначаны біскупам луцкім (пасвячоны ў 1554). З 1555 біскуп віленскі (афіцыйна з 1556). Супрацьстаяў націску Рэфармацыі ў час яе найб. ўздыму, аднак не выкарыстоўваў у барацьбе з пратэстантамі гвалтоўных сродкаў. Паставіў свой подпіс пад *Віленскім прывілеем 1563* Жыгімонта II Аўгуста аб роўных правах каталіцкай і некаталіцкай шляхты. Быў прыхільнікам аб'яднання ВКЛ з Польшчай на прынцыпах федэрацыі, а не інкарпарацыі. *Люблінскую унію 1569* ад імя П. падпісаў яго прадстаўнік А.Р.Мялескі. Адзін з гал. ініцыятараў адкрыцця ў 1570 Віленскага езуіцкага калегіума (пазней акадэмія). У 1570-я г. пераканаў перайсці ў каталіцтва сваіх апанентаў князёў Радзівілаў. Сын М.Радзівіла Чорнага Юрый (Ежы) стаў у 1574 яго каад'ютарам (памочнікам-намеснікам). Рабіў ахвяраванні на будаўніцтва касцёлаў і каталіцкіх навучальных устаноў.




В.**Пратасевіч**. Копія Я.Марачынскага з партрэта 17 ст.

**Пратасовіч** Ян (?—пасля 1608), паэт. З роду *Пратасовічаў*. Атрымаў добрую адукацыю, ведаў лацінскую, грэчаскую, зах.-еўрапейскія мовы. Пакінуў 6 вершаваных твораў, напісаных па-польску і выдадзеных у друкарні Я.*Карцана* ў Вільні. Твор «Паранімфус» (1595) прысвечаны Я.Скуміну-Тышкевічу, старасту браслаўскаму, з нагоды яго ўступлення ў шлюб з Б.Нарушэвіч; «Эпіцэдыум» (1597) напісаны з выпадку смерці М.Войны — жонкі Я.Калантая і прысвечаны яе бацьку Р.Войне, кашталяну берасцейскаму. Кнігі «Контэрфет старога чалавека» (1597) і «Постаць пачцівай жанчыны» (1597) прысвечаны Кацярыне Тышкевіч, маюць маралізатарскі характар і напісаны з выкарыстаннем вобразаў Старога і Новага Запаветаў. Твор «Ялмужнік» (1597) прысвяціў свайму апекуну М.К.*Радзівілу* Сіротку, у кнізе змешчаны выказванні пра ялмужну (міласціну) розных дзеячаў. Гал. яго твор «Інвенторэс рэрум, або Кароткае апісанне, хто што вынайшаў і да ўжытку людзей даў» (1608) мае характар энцыклапедыі, дзе ў алфавітным парадку пералічаны біблейскія, міфалагічныя і гістарычныя асобы з апісаннем іх вынаходніцтваў; усяго змешчана 147 артыкулаў. Асновай для твора паслужыла аналагічная кніга італьянца Вергілія Палідора Урбінскага.


INVENTORES RERVM

Albo

Krotkie opisanie/ kto co wynalazł/ y do używania ludziom podał.

Iana Protáfowicžá ná Mohilney, w Powiećie Pinskim leżącey.

W Wilnie/ W Drukárni Janá Kárcaná. Roku 1608.

Я.**Пратасовіч**. «Інвенторэс рэрум». Вільня. 1608. Тытульны ліст.

*Літ.*: Анушкін А.І. Ян Пратасовіч з Піншчыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 4; Саверчанка І.В. Старажытная паэзія Беларусі, XVI—першая палова XVII ст. Мн., 1992; Кавалёў С.В. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пратасовічы** (Пратасевічы), шляхецкі род герба «Ястрабец». Паходзілі з пінскага баярства, вядомы з 1470-х г., калі атрымалі ад пінскай княгіні Марыі землі ў с. Магільна і Варацэвічы. Асн. зямельныя ўладанні мелі на Палессі, ад маёнтка Астравок у Новагародскім ваяв. некаторыя прадстаўнікі роду зваліся П.-Астроўскімі. Найб. вядомыя:

Іван (у манастве Іона; ?—1577), мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі, гл. *Іона III*.

Ян (?—1632), унук Іоны. Пісар земскі новагародскі з 1613. У паліт. барацьбе прытрымліваўся кальвініскай галіны Радзівілаў. Пасол на соймы 1613, 1615, 1619, 1623, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1602 (?), 1631.

Бенядзікт Васілевіч (?—каля 1576), дзеяч гаспадарскі ў 1546, войскі гарадзенскі і ключнік троцкі ў 1550.

Ян (?—пасля 1608), сын Бенядзікта Васілевіча. Гл. *Пратасовіч Я.*

Міхал, староста нясвіжскі ў 1750—80-я г.

Андрэй, брат Міхала. Службовец вял. гетмана ВКЛ М.К.*Радзівіла* Рыбанькі, з 1750 рэгент вайсковай канцылярыі. Выконваў адказныя даручэнні свайго апекуна ў час правядзення шляхецкіх соймікаў, пры разглядзе спраў у Скарбовым трыбунале ВКЛ. У 1752—56 знаходзіўся пры двары Аўгуста III у Дрэздэне і Варшаве. Яго данясенні Радзівілу — цікавая крыніца па гісторыі ўнутранай палітыкі Рэчы Паспалітай. Прымаў удзел у найме нямецкіх майстроў для Нясвіжскай суконнай мануфактуры.

*Літ.*: Czeppe M. Działalność agenta hetmańskiego w Dreznie w latach 1752—1756 w świetle raportów Andrzeja Protasowicza do Michała Kazimierza Radziwiłła // Studia historyczne. 1995. Z. 4.

***Валерый Пазднякоў.***

**пратэстацыя**, скарга ці заява, з якой пакрыўджаны бок звяртаўся ў суд. Магла быць на правапарушэнне, што адбылося, на магчымае ў будучым ці на пагражаючую небяспеку. Усе П. заносіліся ў судовыя кнігі. П. яшчэ не была падставай для пачатку судовага разгляду, але выклікала пэўныя прававыя вынікі. З падачы П. перапынялася іскавая даўнасць, суд павінен быў паводле хадайніцтва бакоў прыняць меры па забеспячэнні доказаў: правесці агляд на месцы, засведчыць пабоі (раны) і шкоду; у неабходных выпадках затрымаць і ўзяць пад варту падазронага. Выкліканы бок меў права падаць у суд адказ на П. або звярнуцца з самастойнай заявай ці сустрэчным іскам. Бакі маглі пакінуць П. без. вынікаў, скончыць справу міравым пагадненнем.

***Язэп Юхо.***

**Прахаска** (Prochaska) Антоні (13.3.1852, в. Малыя Залешчыкі Бучацкага р-на Цярнопальскай вобл., Украіна — 23.9.1930), польскі гісторык. Чл. Польскай АН у Кракаве (1927), д-р філасофіі (1874). Вучыўся ў Львоўскім (1871—73) і Венскім (1873—74) ун-тах. У 1875—78 праводзіў даследаванні дакументаў у архівах Кёнігсберга, Пецярбурга, Масквы. У 1878—1929 працаваў у Краёвым архіве гродскіх і земскіх актаў (Земскі архіў) у Львове. Даследаваў гісторыю Польшчы, ВКЛ і Рэчы Паспалітай 14—17 ст.: праблемы польска-літоўскай уніі ў часы Ягайлы і Вітаўта, мінулае зямель Чырвонай Русі і суседніх з ёю рэгіёнаў, язычніцкай Літвы, адносіны з Інфлянцкім і Тэўтонскім ордэнамі, польска-чэшскія адносіны 15 ст. (гусіцкае пытанне) і інш. Лічыў Польшчу часткай усх.-еўрапейскай цывілізацыі. Часта наватарскія працы П. прасякнуты клерыкальнай тэндэнцыяй і ідэалізацыяй цывілізацыйнай місіі Польшчы на ўсходзе. Выдаў «*Кодэкс эпісталярны Вітаўта*» (1882), «Архіўныя матэрыялы, узятыя галоўным чынам з Літоўскай Метрыкі, з 1348 да 1607 г.» (1890), «*Архіў дому Сапегаў*» (т. 1, 1892), «Гродскія і земскія акты» (т. 16—24, 1894—1931).

*Тв.*: Ostatnie lata Witolda. Warszawa, 1882; Szkice historyczne z XV w. Kraków, 1884; Przyczynki krytyczne do dziejów Unii. Kraków, 1896; Król Władysław Jagiełło. T. 1—2. Kraków, 1908; Dzieje Witolda w. księcia Litwy. Wilno, 1914; Hetman Stanisław Żółkiewski. Lwów, 1927.

*Літ.*: Hejnosz W. ś.p. Dr. Antoni Prochaska // Ateneum Wileńskie. 1930. R. 7; Maleczyński K., Zajączkowski S. Działalność naukowa ś.p. Antoniego Prochaski // Kwartalnik historyczny. 1931. Z. 1.

***Анатоль Літвіновіч.***

**пробашч** (ад. лац. praepositus начальнік, загадчык), парох, плябан, у каталіцкай царкве ксёндз — кіраўнік парафіі, настаяцель парафіяльнага касцёла. Да 19 ст. тытул П. мелі толькі нешматлікія кіраўнікі парафій, у прыватнасці некаторыя члены *капітула*, астатнія называліся плябанамі.

***Ігар Ганчарук.***

**Прозары**, шляхецкі род уласнага герба. 3 літ. баяр, у 18 ст. прэтэндавалі на княжацкі тытул, выводзячы сябе ад князёў Празароўскіх. Найб. вядомыя:

Юзаф (14.3.1723, Бобцін у Жамойці—22.10.1788), сын Станіслава. Маёр (1751), оберст-лейтэнант (1756), генерал-маёр (1762). Пасол на соймы 1758, 1764, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1782. Віцебскі кашталян у 1774—81 і ваявода ў 1781—87; чл. Пастаяннай Рады з 1776, стараста ковенскі з 1762. У маёнтку Дудзічы (Менскае ваяв.) адкрыў школу, пабудаваў уніяцкую царкву, палац, у Сігневічах (Берасцейскае ваяв.) — касцёл, шпіталь і школу.

Кароль (паміж 1759 і 1761—1.11.1841), сын Юзафа. Вял. абозны ВКЛ у 1787—94, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1787. У час падрыхтоўкі паўстання 1794 прызначаны Т.Касцюшкам генерал-маёрам, начальнікам узброеных



Сям'я **Прозараў**. Мастак Ф.Смуглевіч. 1789. У цэнтры ў авале партрэт Ю.Прозара, ваяводы віцебскага.



сіл на Украіне, Палессі, Падоллі і часткі Беларусі, што адышла раней да Рас. імперыі. Ваенныя дзеянні разгарнуць не здолеў і выехаў у Варшаву. 18.7.1794 прызначаны Касцюшкам намеснікам радцы *Найвышэйшай нацыянальнай рады* і паўнамоцным прадстаўніком пры ўсіх дывізіях войска ВКЛ (яму падпарадкавана *Цэнтральная дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага*). Выехаў у Вільню, пасля падаўлення паўстання ў эміграцыі. Вярнуўся ў 1802. У 1812 падтрымаў Напалеона, увайшоў у Часовы ўрад ВКЛ (старшыня Скарбовага к-та). Да 1814 у эміграцыі. З 1821 у Патрыятычным таварыстве, чл. правінцыяльнага к-та Літвы. У 1826 арыштаваны па справе дзекабрыстаў, вызвалены ў 1829 як «не належны да справы». Тытулаваў сябе графам на Хойніках (Оўруцкі пав.) і Астраглядавічах (Рэчыцкі пав.).

Ігнацы Каэтан (да 1769—каля мая 1807), сын Юзафа. Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1788. Ротмістр войска ВКЛ (1791), удзельнічаў у вайне 1792 з Рас. імперыяй. У час паўстання 1794 генерал-маёр у Ковенскім пав.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Пронскія**, княжацкі род у ВКЛ і Расіі. Паходзілі ад Рурыкавічаў, уладальнікаў г. Пронск (адсюль прозвішча). Страцілі Пронск да 1483, калі ён ужо быў у складзе Разанскага княства (з 1521 у Вял. княстве Маскоўскім). Найб. вядомыя:

Іван Уладзіміравіч (?—каля 1430), уладальнік Пронска. У 1408 з дапамогай татараў на некаторы час захапіў пасад Разанскага княства. У 1427 разам з разанскім князем прызнаў вяршэнства вял. князя літоўскага Вітаўта і прысягнуў яму на вернасць («дался ему в службу... служити ему верно безо всякия хитрости»). Меў сыноў Фёдара, Івана (мянушка Нялюб), Андрэя (мянушка Сухарукі); дачку ў 1416 выдаў замуж за Івана, сына вял. князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча.

Дзмітрый Андрэевіч, сын Андрэя Іванавіча. Служыў вял. князю літоўскаму Казіміру IV, за што ў 1487 атрымаў ад яго юргельт (жалаванне). Трымаў маёнтак Рымавідаўскі каля Поразава. Яго дзеці служылі вял. князю маскоўскаму, гэтая лінія роду згасла ў 2-й пал. 17 ст.

Фёдар Іванавіч, сын Івана Уладзіміравіча. Атрымаў ад Казіміра IV сяло на Мсціслаўшчыне, а яго сын Юрый — с. Камянойты на Берасцейшчыне (1464). Апошні ад княжны Слуцкай меў сына Івана (памёр маладым), ад княжны Саламярэцкай — Глеба.

Глеб Юр'евіч (?—1513), сын Юрыя Фёдаравіча. Намеснік астрынскі ў 1501, бабруйскі ў 1504, мейшагольскі ў 1508, пасол у Арду. Загінуў у бітве з татарамі пад Менскам. Меў сыноў Андрэя і Сямёна.

Сямён Глебавіч (у каталіцтве Фрыдэрык; ?—1555), сын Глеба Юр'евіча. У 1538—39 спраўца жытомірскі, у 1539 староста брацлаўскі і вінніцкі, з 1544 ваявода кіеўскі. Меў сыноў Ежы (памёр маладым) і Аляксандра Фрыдэрыка.

Аляксандр Фрыдэрык (каля 1550—каля 1595), сын Сямёна Глебавіча. У маладосці пры двары французскага караля Карла IX. У 1573 быў у складзе пасольства па запрашэнні на трон Рэчы Паспалітай Генрыка Валезы. У 1575 падтрымаў абранне на трон Стафана Баторыя. З 1576 стольнік ВКЛ, з 1580 староста луцкі. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Пасля смерці Стафана Баторыя прытрымліваўся габсбургскай арыентацыі, выступаў за абранне эрцгерцага Максіміляна на трон Рэчы Паспалітай. Удзельнічаў у бітве пад Бычынай 24.1.1588 і разам з Максімілянам трапіў у няволю да прыхільнікаў Жыгімонта III; быў пазбаўлены пасад і эмігрыраваў у Прагу. Пасля вяртання абраны паслом на сойм 1590—91. З 1591 кашталян троцкі. Адстойваў суверэнітэт ВКЛ у Рэчы Паспалітай. Вызнаваў кальвінізм. На яго сынах Юлію Ільі (?—1613) і Аляксандру Актавіяне (?—1638), якому было прысвечана 1-е выданне твора Міхалона Літвіна «Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў», род П. у ВКЛ згас.

*Літ.:* Экземплярский А.В. Великие и удельные князья Северной Руси в татарский период, с 1238 по 1501 г. Т. 2. СПб., 1891; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Флоря Б.Н. Великое княжество Литовское и Рязанская земля в XV в. // Славяне в эпоху феодализма. М., 1978.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пружаны** (цяпер горад, цэнтр Пружанскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Берасцейскім пав., на вытоку р. Мухавец. Вядомы з 1487 пад назвай Дабучын, з канца 16 ст. замацавалася назва П. Да 1519 у Кобрынскім княстве, потым у Кобрынскай эканоміі. З 1520 у Кобрынскім, з 1566 у Берасцейскім пав. У 16 ст. належалі каралеве Боне Сфорца, потым яе дачцэ Ганне, якая 6.5.1589 дала гораду магдэбурскае права і герб: у сярэбраным полі звілістая блакітная змяя з залатой каронай на галаве заглынае дзіця. Існаваў «каралеўскі двор» — драўляны палац з гасп. пабудовамі. У 1563 — 1250 жыхароў, 278 гаспадарак. У 1589 буйны гандлёвы цэнтр, праводзіліся 4 кірмашы на год. У час войнаў сярэдзіны 17—пач. 18 ст. моцна разбураны, ацалела 1/5 пабудоў. Да канца 18 ст. адбудаваны, у 1791 — 2094 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**прускія хронікі**, гістарыяграфічныя творы, напісаныя ў 14—15 ст. у Нямецкім ордэне і прысвечаныя гал. чынам яго дзейнасці. Першы вял. твор ордэнскай храністыкі — «Хроніка зямлі Прускай» *Пятра з Дусбурга*, напісаная па-лацінску, скончана на 1326, а пасля праверкі вял. магістрам ордэна даведзена да 1330. Падрабязна апісаны экспедыцыі рыцараў на Гародню, Навагародак і інш. землі Беларусі. Паміж 1331 і 1341 ордэнскі святар Мікалай Ярошын пераклаў твор на нямецкую мову. Гэты пераклад стаў шырокадаступным і класічным, да 17 ст. на яго апіраліся ўсе прускія храністы. Наступным значным творам сярэдзіны 14 ст. стала «Старэйшая Аліўская хроніка» святара Герарда фон Браўнсвальда, у якой апісаны падзеі з канца 12 ст. да 1350. Хроніка істотна адрозніваецца ад твора Дусбурга адыходам ад афіцыйнай ордэнскай гістарыяграфіі і нават змяшчае крытыку ў адрас ордэна. Новая гісторыя ордэна — рыфмаваная хроніка *Віганда з Марбурга*, герольда вял. магістра, складзеная ў канцы 14 ст. У ёй апісаны падзеі 1311—94. У цэнтры ўвагі Віганда барацьба рыцараў з «нявернымі», але аўтар адышоў ад канонаў «святой вайны». Для яго больш важныя самі падзеі, ён аддае належнае мужнасці палякаў, ліцвінаў і русінаў. У канцы 14 ст. з'явіўся рыфмаваны «Расказ пра літвіна». Новым



гістарыяграфічным творам стала «Хроніка Прускай зямлі» Ёгана Позільге. Народжаны ў Прусіі, аўтар выступае з пазіцый не рыцара, а пруса, які любіць радзіму і дазваляе сабе крытычныя выказванні пра ордэн. Яго твор — пераход ад ордэнскай да краёвай храністыкі. Аўтар вял. ўвагу аддаваў апісанню падзей, звязаных з Польшчай і ВКЛ. З працягамі інш. аўтараў твор даведзены да 1419, яго звесткі шмат у чым унікальныя. Наступным помнікам ордэнскай храністыкі сталі «Тарунскія аналы». Яны пачынаюцца нататкамі пра заваяванне Прусіі і канчаюцца апісаннем Грунвальдскай бітвы 1410. У сярэдзіне 15 ст. створана «Старэйшая вялікамагістарская хроніка» (ахоп падзей за 1190—1433), а пасля 1492 — «Малодшая вялікамагістарская хроніка» (даведзена да 1466), якія завяршылі афіцыйнае ордэнскае гісторыяпісанне. Заняпад ордэнскай дзяржавы вызначыў тон гэтых твораў: аўтары захапіліся маралізацыяй і дыдактыкай, а ў апошняй хроніцы нават звязалі мінулае ордэна са святой гісторыяй.

*Публ.*: Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 1—5. Leipzig. 1861—74.

*Літ.*: Udo A. Geschichtsschreibung im Preussenland bis zum Ausgang des XVI Jhs // Jahrbuch für die Geschichte Mittel- und Ostdeutschlands. 1970. [Bd.] 19.

***Генадзь Сагановіч.***

**прусы**, група заходнябалцкіх плямёнаў, якія насялялі ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем Віслы і Нёмана. Згадкі ў пісьмовых крыніцах з 9 ст. (ананімны Баварскі Географ Ібрагім ібн Якуб). Першапачаткова назва [балцк. Prūsas, Prusai; лац. Bruzzi, Pruz(z)i, Prussi, Prut(h)eni, Borussi; ням. Prussen, (Alt)preussen] з няяснай этымалогіяй тычылася некаторых плямёнаў (каля Віслы) і толькі ў крыжацкай дзяржаве пашырылася да яе памераў. На землях П. налічваюць больш за дзесятак роднасных плямёнаў, кожнае з якіх жыло на пэўнай тэрыторыі і размаўляла на сваім дыялекце. Найб. буйныя жылі на перыферыі тэрыторыі зах. балтаў: *яцвягі* (зямля Судавія/Судовія), галінды на Пд. вакол Мазурскага паазер'я. П. займаліся паляваннем, земляробствам і жывёлагадоўляй (значна была развіта конегадоўля). Знаходзіліся на стадыі распаду родаплемяннога ладу, не мелі дзярж. арганізацыі. Сярод П. быў распаўсюджаны палігамны шлюб, атрымала пашырэнне рабства (у т.л. жанчын), рабоў захоплівалі падчас наездаў на суседнія тэрыторыі. Наезды, якія ўзмацніліся ў 12 ст., суправаджаліся міграцыяй прускага насельніцтва. Асобныя вайсковыя дружыны П. у 11—12 ст. станавіліся наймітамі польскіх, рус. і літ. князёў. Спробы хрысціянізацыі П. рабіліся з канца 10 ст., але заставаліся няўдалымі, што прывяло да абвяшчэння ў 1217—23 біскупам Хрысціянам 3 крыжовых паходаў супраць П., зрэшты, малавыніковых. Кн. Конрад Мазавецкі, які найбольш цярпеў ад наездаў П., для барацьбы з імі запрасіў у 1226 крыжацкі *Нямецкі ордэн* на ніжнюю Віслу каля Торуня. Крыжакі з 1230-х г. пачалі стварэнне ўласнай дзяржавы шляхам захопу тэрыторый П., частковага знішчэння прускага насельніцтва і перасялення нямецкіх, галандскіх, скандынаўскіх каланістаў. Нягледзячы на значныя паўстанні ў 1240-х і 1260-х г., крыжакі падпарадкавалі да 1283 усе тэрыторыі П. Рэшткі нескароных П. уцякалі ў язычніцкую Літву і інш. землі. У 1270—80-я г. некаторыя іх групы пасяліліся каля Гародні, Слоніма і Ваўкавыска. Частка прускай знаці ўлілася ў склад крыжацкай дзяржавы і хутка германізавалася, астатняе насельніцтва падверглася паступовай асіміляцыі. Аднак яшчэ напачатку 15 ст. палову жыхароў крыжацкай дзяржавы складалі П. У глухіх кутках (напрыклад, у Самбіі) яны нават часткова захавалі свае язычніцкія вераванні і абрады. У эпоху Рэфармацыі для іх выдаваліся пратэстанцкія пераклады катэхізіса на прускай мове (Каралявец, 1545, 1561). Апошнія П., што ведалі сваю мову, вымерлі на мяжы 17—18 ст.

*Літ.*: Voigt J. Geschichte Preussens von den altesten Zeiten bis zum Untergang der Herrschaft des Deutschen Ordens. Bd. 1—9. Königsberg, 1827—39; Dzieje Prus Wschodnich. T. 1—3. Toruń; Gdynia, 1935—39; Odoj R. Dzieje Prusów do czasów krzyżackich // Komunikaty Mazursko-Warmińskie. 1970. R. 107. № 1; Łowmiański H. Prusy—Litwa—Krzyżacy. Warszawa, 1989; Кулаков В.И. Древности пруссов VI—XIII вв. М., 1990; Яго ж. Пруссы (V—XIII вв.). М., 1994; Яго ж. История Пруссии до 1283 года. М., 2003; Okulicz-Kozaryn Ł. Dzieje Prusów. 2 wyd. Wrocław, 2000.

***Ігар Клімаў.***

**прут**, прэнт, адзінка вымярэння даўжыні і плошчы ў Польшчы (з 13 ст.) і ВКЛ (з 16 ст.). У 16 ст. каронны (польскі) П. складаўся з 7,5 купецкіх *локцяў*, выкарыстоўваліся таксама П. з 7 і 8 локцяў. У ВКЛ каронны П. пашырыўся ў 16 ст. ў час правядзення *валочнай памеры* як адзінка ў 4,87 м. Падзяляўся на 10 пруцікаў (прэнцікаў). Як зямельная мера ўяўляў сабой прамавугольнік памерам 1 шнур х 1 пруцік (23,72 $м^2$).

*Літ.*: Baraniecki M.A. O miarach prawnych i zwyczajowych w Polsce // Wszechświat. 1883. T. 2, z. 44; Земзарис Я.К. Метрология Латвии в период феодальной раздробленности и развитого феодализма (XIII—XVI вв.) // Проблемы источниковедения. М., 1955. Сб. 4; Скурат К.У. Даўнія беларускія меры: (лексіч. аналіз). Мн., 1974.

***Яўген Анішчанка.***

**прыватнаўладальніцкія гарады**, гарады ў ВКЛ у 15—18 ст., якія ўваходзілі ў склад магнацкіх латыфундый як асяродкі эканам. жыцця, адм. і вайсковыя цэнтры. Найб. значныя П.г.: Горкі, Давыд-Гарадок, Друя (Сапежын), Дуброўна, Капыль, Кейданы, Клецк, Копысь, Мір, Нясвіж, Ружаны, Слуцк, Стары Быхаў, Шклоў; менш значнымі былі гарады і мястэчкі Глыбокае, Горы, Докшыцы, Заслаўе, Зэльва, Койданаў, Лагойск, Любча, Ляхавічы, Маладзечна, Новы Быхаў, Петрыкаў, Смаргонь і інш. У 16—18 ст. складалі больш за 40% ад усіх гарадоў Беларусі. Большая частка іх належала Радзівілам, Сапегам, Чартарыйскім, Хадкевічам і інш. магнатам. П.г. знаходзіліся на магнацкай зямлі, якая перадавалася ім «у вечнасць», таму за гар. пляцы, валокі (палявыя надзелы), агароды, сенажаці і выганы мяшчане плацілі чынш уладальніку горада. Насельніцтва П.г. лічылася вольным, але знаходзілася ў юрыд. падпарадкаванні магнату. Акрамя гродскага суда, які судзіў мяшчан паводле норм магдэбургскага права, у П.г. існаваў як вышэйшая інстанцыя і замкавы суд уладальніка горада. Мяшчане і інш. жыхары горада, у т.л. яўрэі, выконвалі павіннасці на карысць уладальніка горада і плацілі ў яго скарб розныя грашовыя зборы (у дадатак да дзярж. павіннасцей і падаткаў). Сярод іх чынш з крам і свірнаў, маставое (за карыстанне мастамі ў гарадах), падаткі з рамесных цэхаў, грошы на ўтрыманне гарнізонаў магнацкага войска і інш. Нату-

ральнымі і адработачнымі павіннасцямі былі аброкі з суконшчыкаў і шаўцоў, работы па ўмацаванні гар. валоў, аховы горада ноччу, прыём на пастой вайскоўцаў, гвалты (3 дні) па збору ўраджаю ў панскім маёнтку для мяшчан у малых гарадах і г.д. Важнай павіннасцю быў удзел гараджан у гар. апалчэнні (*міліцыі*) пры абароне горада ад непрыяцеля. Такім чынам, гараджане былі падпарадкаваны магнату і эканамічна. Большасць П.г. мела самакіраванне паводле магдэбургскага права, іх магістрат выбіраўся, але войта прызначаў уладальнік горада. Нормы магдэбургскага права ўводзіліся магнатам, каб заахвоціць гараджан да занятку рамёствамі і гандлем, што давала дадатковы прыбытак магнацкаму скарбу, і каб зацікавіць перасяленцаў з інш. гарадоў. Увядзенне поўнага магдэбургскага права належала каралю як кіраўніку дзяржавы, да якога з адпаведнай прапановай звярталіся магнаты. У сістэме гар. самакіравання ўдзельнічалі рамесныя і купецкія цэхі і царк. брацтвы, кіраўнікі якіх былі ў складзе магістрата. Магістраты падпарадкоўваліся магнацкай адміністрацыі (намесніку, старасту, губернатару, камісару). П.г. захавалі сваё самакіраванне пад кантролем магнатаў нават пасля адмены самакіравання для большасці каралеўскіх гарадоў у 1776, бо дзяржава не ўмешвалася ў адносіны паміж уладальнікамі горада і мяшчанамі. Частка П.г. не мела самакіравання паводле магдэбургскага права (Валожын, Глыбокае, Давыд-Гарадок, Клецк, Копысь і інш.). У гэтых П.г. існавала ўлада прызначаемых панам войтаў і гар. пісараў, выбраных ад насельніцтва лаўнікаў (для суда) і сотнікаў (для збору падаткаў). Пасля далучэння ў канцы 18 ст. ВКЛ да Расіі царскі ўрад паступова выкупляў П.г. ў магнатаў.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Яго ж. Землевладение и землепользование в частновладельческих городах Великого княжества Литовского в XVI—XVIII вв. // Проблемы аграрной истории (с древнейших времен до XVIII в. включительно). Мн., 1978. Ч. 1; Яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979; Яго ж. Древний город на Случи. Мн., 1985.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілеі** (лац. privilegium ад privus асаблівы + lex закон), заканадаўчыя акты ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і інш. феадальных дзяржавах, якімі вял. князі ці каралі давалі або пацвярджалі асаблівыя правы пануючага класа, саслоўя, пэўных сацыяльных або этнічна-рэлігійных груп, асоб. У гіст.-прававой л-ры вылучаюць П. ільготныя, даравальныя і ахоўныя. Былі таксама П. земскія (пашыраліся на ўсіх феадалаў), *абласныя прывілеі*, гарадскія, валасныя (на насельніцтва асобных тэрыторый). Першыя земскія П. на тэр. Беларусі выдадзены ў 1387: аб ільготах і правах феадалам за пераход у каталіцкую веру (20 лют.) і аб вызваленні каталіцкага духавенства і іх маёнткаў ад усіх дзярж. павіннасцей і падаткаў (22 лют.). *Гарадзельскі прывілей 1413* пашыраў правы феадалаў-католікаў і абмяжоўваў правы правасл. феадалаў. Гарадзенскі *прывілей 1432* ураўноўваў у правах феадалаў праваслаўных і католікаў, чым стварыў перадумовы для вылучэння ваенна-служылых людзей і аб'яднання іх у адзінае прывілеяванае саслоўе — *шляхту*. *Прывілей 1434* пацвердзіў раўнапраўе праваслаўных і католікаў, забяспечваў асабістую свабоду і недатыкальнасць шляхціца. Найб. поўна правы і льготы шляхты выкладзены ў Казіміравым *прывілеі 1447*, які даў пачатак юрыд. замацаванню феад. залежнасці сялян. Аляксандраў *прывілей 1492* замацаваў прынцыпы міжнар. палітыкі дзяржавы, абмежаваў уладу вял. князя Радай ВКЛ, вызначыў асновы адм., грамадзянскага і крымінальнага права і быў своеасаблівай феад. канстытуцыяй ВКЛ. Самыя стараж. абласныя П. — Полацкі і Віцебскі (прыкладна 1392—99). З ростам гарадоў, павелічэннем іх эканам. ўплыву пачалі выдавацца П. асобным гарадам (гл. *Магдэбургскае права*). Каб абмежаваць злоўжыванні мясцовай адміністрацыі і павялічыць прыбыткі дзярж. казны, выдаваліся П., у якіх вызначаліся павіннасці і падаткі сялян пэўных валасцей. Вядомы П. яўрэям 1388, 1507, бел. і літ. татарам (мусульманам) 1561, 1568, 1609, 1634, а таксама шматлікія П. каталіцкай і правасл. цэрквам. Да выдання Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 — асн. крыніц пісанага права ВКЛ — многія П. мелі юрыд. значэнне на працягу некалькіх стагоддзяў.

***Язэп Юхо.***

**прывілей 1387**, заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены вял. кн. Ягайлам у Вільні 20.2.1387 пасля заключэння *Крэўскай уніі 1385*. Зацвярджаў феад. правы баяр, якія прынялі і прымалі хрышчэнне па каталіцкім абрадзе ў час хрысціянізацыі язычніцкай Літвы. Прывілей гарантаваў такім баярам поўную ўласнасць на іх родавыя маёнткі з правам свабодна распараджацца імі. Правы баяр-католікаў параўноўваліся з правамі шляхты Польскага каралеўства, што падкрэслівала інтэграцыйную палітыку Ягайлы. Прывілей дазваляў удовам баяр карыстацца маёнткамі мужа; пры іх паўторным выхадзе замуж маёнтак перадаваўся дзецям або бліжэйшым сваякам мужа-нябожчыка. Маёнткі і насельніцтва баяр вызваляліся ад розных работ на карысць дзяржавы, за выключэннем будаўніцтва і рамонту дзярж. замкаў. У тэксце няма згадак пра грашовыя і натуральныя павіннасці: іх па-ранейшаму выплачвала і выдавала насельніцтва баярскіх маёнткаў. Прывілей захаваў феад. павіннасць баяр выходзіць у вайсковы паход за свой кошт. Калі ворага выганялі з тэр. ВКЛ і абвяшчалася «пагоня», то ў апалчэнні павінны былі ўдзельнічаць усе мужчыны, здольныя насіць зброю. Паліт. мэтай прывілея было з'яднаць вакол вял. князя літ. баяр у барацьбе з незалежніцкімі тэндэнцыямі літ. і бел. феадалаў ВКЛ. Прывілей напісаны на лац. мове.

*Публ.*: Zbiór praw litewskich od r. 1389 do r. 1529. Poznań, 1841. S. 1—2; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 210—211; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 101—102.

*Літ.*: Bardach J. Studia z ustroji i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970. S. 33—36; Яго ж. Historia państwa i prawa Polski do połowy XV w. 4 wyd. Warszawa, 1973. T. S. 569, 571; Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990. S. 117—118.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілей 1388**, першы заканадаўчы акт, які ўстанаўліваў у ВКЛ прававы статус *яўрэяў*, што пачалі актыўна сяліцца ў гарадах заходняй часткі дзяржавы ў 2-й пал. 14 ст. Выдадзены кн. Вітаўтам 24.6.1388 кагалу Берасця як



найб. шматлікай, эканамічна развітой і арганізаванай грамадзе, якая доўгі час каардынавала агульнаяўрэйскае эканам., грамадскае і рэліг. жыццё ў ВКЛ. Фактычна прывілей распаўсюджваўся на ўсё яўрэйскае насельніцтва ВКЛ. Пазней гэты прывілей неаднаразова пацвярджалі і ўдакладнялі інш. гаспадары ВКЛ. На яго ўзор выдаваліся прывілеі інш. гарадам (Трокам, Гародні, Луцку); у 1507 пацверджаны Жыгімонтам I Старым у якасці агульнадзярж. акта ВКЛ. Прывілей устанаўліваў асабістую недатыкальнасць яўрэяў, юрыд. аўтаномію і прынцыпы тэр. арганізацыі іх грамады, узаемадзеянне кагалу з ін-тамі дзярж. улады і інш. У асн. прывілей паўтараў нормы яўрэйскага права краін Цэнтр. Еўропы 13—14 ст. Яго арыгінал (на лац. мове) не захаваўся, вядомы ў 8 спісах 15—17 ст. на лац., старабел. і польскай мовах (Берасцейскі спіс 17 ст. зберагаецца ў Нац. гіст. архіве Беларусі).

*Літ.*: Лазутка С. Гудавичюс Э. Привилегия евреям Витаутаса Великого 1388 г. М., Иерусалим, 1993.

***Алесь Белы.***

**прывілей 1413**, гл. *Гарадзельскі прывілей 1413*.

**прывілей 1432**, заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены ад імя караля польскага Ягайлы як вярхоўнага князя літоўскага і рускага яго ўпаўнаважанымі пасламі са згоды новага вял. князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча ў Гародні 15.10.1432, у дзень заключэння новай уніі паміж Польшчай і ВКЛ (гл. *Гарадзенска-Троцкая унія 1432—33*). Выдадзены неўзабаве пасля дзярж. перавароту 1.9.1432, калі ўладу ў ВКЛ захапіў прыхільны Польшчы Жыгімонт Кейстутавіч, і меў на мэце схіліць на яго бок правасл. баярства, што знаходзілася на баку вял. кн. Свідрыгайлы. Паводле П. 1432 праваслаўныя бел. і ўкр. князі і баяры ўраўноўваліся ў асабістых і маёмасных правах з феадаламі-католікамі. Ім гарантавалася недатыкальнасць маёнткаў як спадчынных, так і дадзеных вял. князямі, права вольнага распараджэння землямі, дазвалялася займаць дзярж. пасады ў Віленскім і Троцкім ваяв., уступаць з літ. баярамі ў гербавае братэрства (набываць гербы). Такім чынам, на правасл. баярства былі пашыраны *прывілей 1387* і *Гарадзельскі прывілей 1413*. Аднак фактычна П. 1432 дзейнічаў толькі на тэрыторыі зах. часткі Беларусі. Бел. і ўкр. феадалы ў сваёй масе не падтрымалі Жыгімонта і выступілі супраць падпарадкавання Польшчы. Яны ўступалі ў войска Свідрыгайлы, разгаралася *феадальная вайна 1432—39*. Гэта прымусіла Жыгімонта выдаць *прывілей 1434*, які пашыраў гарантыі ўсяму баярству ў асабістай недатыкальнасці і яго маёмасныя правы. П. 1432 напісаны на лац. мове.

*Публ.*: Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. Kraków, 1894. T. 14. S. 523—524.

*Літ.*: Любавский М. К вопросу об ограничении политических прав православных князей, панов и шляхты в Великом княжестве Литовском до Люблинской унии // Сб. статей, посвященных В.О.Ключевскому. М., 1909; Яго ж. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915. С. 68—69; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 419—422.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілей 1434**, агульнадзяржаўны заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены вял. кн. Жыгімонтам Кейстутавічам у Троках 6.5.1434 у час *феадальнай вайны 1432—39*, якую вёў за трон кн. Свідрыгайла. Прывілей быў накіраваны на з'яднанне ўсіх феадалаў дзяржавы вакол Жыгімонта Кейстутавіча. Складаецца з 8 артыкулаў. Прывілей ураўнаваў саслоўныя, маёмасныя і асабістыя правы літ., бел. і ўкр. князёў і баяр, забяспечваў асабістую свабоду і недатыкальнасць феадалаў, гарантуючы ім разгляд іх спраў у судзе на падставе законаў. Пацвярджалася права князёў і баяр свабодна распараджацца сваімі спадчыннымі маёнткамі з умовай засведчыць перадачу або продаж зямлі перад прадстаўнікамі велікакняжацкай улады. Удаве захоўвалася права карыстацца маёнткам і маёмасцю мужа; у выніку яе паўторнага шлюбу маёнтак пераходзіў да дзяцей ранейшага мужа або яго братоў. Князям і баярам пацвярджалася валоданне маёнткамі, атрыманымі ад вял. кн. Вітаўта і самога Жыгімонта Кейстутавіча. Пацвярджалася вызваленне падданых князёў і баяр ад усіх падаткаў, данін, дзякла і павіннасцей на карысць велікакняжацкага скарбу, акрамя павіннасці будаваць і рамантаваць велікакняжацкія замкі і дарогі ваеннага значэння. Бел. і ўкр. князям і баярам дазвалялася карыстацца гербамі і інш. знакамі шляхецтва, як і літ. баярам, якія атрымалі гэта права паводле *Гарадзельскай уніі 1413*. Прывілей пашырыў саслоўныя правы ўсіх феадалаў ВКЛ і аб'яднаў іх у адзінае саслоўе з агульнымі саслоўнымі і класавымі інтарэсамі. Праваслаўныя бел. і ўкр. баяры атрымалі магчымасць без абмежаванняў уваходзіць у склад кіруючага ўладнага органа — *Рады Вялікага княства Літоўскага*. Прывілей напісаны на лац. мове.

*Публ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915. С. 323—325; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 216—217; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 119—121.

*Літ.*: Kutrzeba S. Historja ustroju Polski w zarysie. 2 wyd. Lwów; Warszawa, 1921. T. 2. S. 28; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 417—424.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілей 1447**, Казіміраў прывілей, агульнадзяржаўны заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены вял. кн. Казімірам IV Ягелончыкам у Вільні 2.5.1447. Адзін з асн. дзяржаўных актаў, які замацаваў шырокія правы баяр ВКЛ у паліт., сац. і эканам. жыцці дзяржавы. Складаецца з 14 артыкулаў. Прывілей пацвярджаў асабістую свабоду і недатыкальнасць баяр, гарантаваў, што за правіннасць павінен адказваць толькі сам вінаваты, а не яго жонка, бацька, слуга або іншы баярын. Баярам дазволены выезд за мяжу дзяржавы «для лепшага набыцця шчасця, або ўчынкаў рыцарскіх», але не ў «непрыяцельскую краіну». Пацверджаны прывілеі баярам на маёнткі, выдадзеныя папярэднімі вял. князямі, права на продаж і абмен маёнткаў. Прывілей гарантаваў баярам, што іх маёнткі не будуць канфіскаваны, а пасля смерці баярына яго сыны і дочкі «ад сваёй вотчыны не маюць аддалены быць». Дочкі, пляменніцы і ўдовы баяр маглі выходзіць замуж без ведама велікакняжацкіх намеснікаў. Адным з найважнейшых палажэнняў прывілея было вызваленне сялян баярскіх маёнткаў ад дзярж. натуральных і грашовых павіннасцей, за выключэннем стацы, пабудовы і рамонту замкаў. У прывілеі

зафіксаваны дагавор вял. князя з феадаламі, што ён, як і яны, не будзе прымаць у свае маёнткі збеглых сялян, а вяртаць уцекачоў назад да свайго пана. Адным з гал. палажэнняў прывілея была перадача вял. князем свайго права судзіць сялян і інш. падданых самім баярам (права судовага імунітэту). З гэтага часу феадал станавіўся адзіным суддзёю сваіх падданых, што вяло да яшчэ большай іх залежнасці і ўрэшце дало магчымасць іх запрыгоніць. Прывілей гарантаваў баярам, што землі і дзярж. пасады ў ВКЛ будуць атрымліваць толькі ўраджэнцы ВКЛ. Такім чынам, прывілей забараняў пранікненне польскай шляхты ў ВКЛ. Вял. князь таксама ўрачыста абяцаў бараніць незалежнасць дзяржавы і яе тэр. цэласнасць. Прывілей напісаны на лац. мове. Меў вял. значэнне ў далейшым юрыд. афармленні правоў феадалаў, некаторыя яго нормы ўвайшлі ў Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588.

*Публ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915. С. 325—328; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 218—220; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 124—127.

*Літ.*: Пичета В.И. Литовский статут 1529 г. и его источники // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілей 1492**, Аляксандраў прывілей, агульнадзяржаўны заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены вял. кн. Аляксандрам у Вільні 6.8.1492 пасля абрання яго на велікакняжацкі пасад. Меў характар феад. канстытуцыі ВКЛ, якая замацоўвала асновы дзярж. і грамадскага ладу, пануючае становішча баяр іх вярхоў — паноў. Складаецца з 33 артыкулаў. У першых 12 артыкулах пацвярджаліся з частковымі зменамі ўсе прывілеі баярству, выдадзеныя папярэднімі вял. князямі. У арт. 13 (як і ў *прывілеі 1447*) замацаваны асн. прынцыпы знешняй палітыкі дзяржавы: захаванне незалежнасці, добрасуседскія адносіны з інш. дзяржавамі, захаванне папярэдніх саюзаў і пагадненняў. Важнай уступкай буйным феадалам было юрыд. афармленне вял. паўнамоцтваў *Рады Вялікага княства Літоўскага*, куды ўваходзілі вышэйшыя саноўнікі дзяржавы і радавітая знаць, сваякі вял. князя. Прывілей устанавіў, што вял. князь не мае права адмяняць або змяняць законы, пастановы і судовыя рашэнні, прынятыя разам з радай. Яе пастановы, прынятыя большасцю галасоў, павінны былі выконвацца вял. князем. Рада дзейнічала пад кіраўніцтвам вял. князя, але ў выпадку яго адсутнасці самастойна вырашала пытанні агульнадзярж. значэння. Прывілей вызначыў асновы адм., цывільнага і крымінальнага права. Службовым асобам было забаронена вымагаць у падначаленых падачкі звыш устаноўленых плацяжоў. У арт. 16—20 акрэслены прынцыпы прызначэння і пазбаўлення дзярж. пасад, ніхто не мог быць пазбаўлены пасады без віны, даказанай у працэсе публічнага разгляду. Прывілей пацвердзіў абавязковы характар мясцовых прававых звычаяў. Дзярж. пасады і зямельныя ўладанні мелі права атрымліваць толькі ўраджэнцы ВКЛ (польскай шляхце гэта забаранялася). У прывілеі абвяшчалася неабходнасць вынясення справядлівых судовых рашэнняў, забараняліся хабары і судзейская неаб'ектыўнасць, устанаўліваліся пэўныя тэрміны разгляду спраў. Напісаны на лац. мове.

*Публ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915. С. 328—334; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 220—225.

*Літ.*: Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілей 1501**, гл. *Мельніцкі прывілей 1501.*

**прывілей 1506**, агульнадзяржаўны заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены вял. кн. Жыгімонтам І Старым у Гародні 7.12.1506 пасля абрання яго на велікакняжацкі пасад. Складаецца з 7 артыкулаў. Прывілей пацвердзіў «усе правы, вольнасці і граматы», выдадзеныя цэрквам, духоўным і свецкім феадалам, «гарадам, мяшчанам, жыхарам і наогул асобам усіх саслоўяў і стану». Такім чынам былі замацаваны юрыд. нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям (княствам), валасцям і гарадам ВКЛ. П. 1506 пацвярджаў асн. палажэнні *прывілея 1492*. Новым быў запіс аб праве падданых падаваць чалабітныя і скаргі на дзеянні адміністрацыі. Падкрэслівалася, што абранне вял. князя адбылося са згоды ўсіх падданых і жыхароў дзяржавы, хоць яно праводзілася на з'ездзе (сойме) баяр. Такім чынам, выбаршчыкі фармальна прадстаўлялі ўсё грамадства і лічылі сябе выразнікамі волі ўсяго народа, таму прывілей адрасаваны ўсяму насельніцтву ВКЛ. Напісаны на лац. мове. Выданнем П. 1506 завяршыўся этап развіцця бел. дзярж. права ў выглядзе прывілеяў. Наступныя агульнадзярж. прывілеі 1529, 1547 і 1551 толькі паўтаралі і пацвярджалі палажэнні папярэдніх прывілеяў. На новым этапе развіцця бел. права адбывалася кадыфікацыя юрыд. норм у выглядзе Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588.

*Публ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915. С. 334—336; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 227—229.

*Літ.*: Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**прывілей 1563**, гл. *Віленскі прывілей 1563.*

**прывілей 1564**, гл. *Бельскі прывілей 1564.*

**прывілей 1565**, гл. *Віленскі прывілей 1565.*

**прыдомак**, дадатковае прозвішча (частка падвоенага) у некаторых шляхецкіх родаў. Часцей стаіць перад асн. прозвішчам. Можа быць родавым прозвішчам (часцей патронімам), ад ужывання якога як асн. прозвішча род па нейкіх прычынах адмовіўся, звычайна на карысць другога прозвішча, утворанага ад тапоніма (Даніловіч-Храпавіцкі, Борзабагаты-Красенскі, Іпацьевіч-Маскевіч, Далмат-Ісайкоўскі, Багавіцін-Казерадзкі), ці ўтвораны ад назвы родавага ўладання (Запольскі-Доўнар, Кубліцкі-Пётух, Старасельскі-Мароз). У шляхты Піншчыны такі П. амаль заўсёды стаіць другою часткаю прозвішча (Колб-Сялецкі, Караневіч-Высоцкі, Вярэніч-Стахоўскі, Палюховіч-Сярніцкі). Часам галіны аднаго роду выкарыстоўвалі розныя тапонімы, у такім выпадку родавае прозвішча станавілася П. (Друцкі-Любецкі, Друцкі-Сакалінскі). П. маглі ўзнікаць пры збегу пэўных абставін і нагадваць імёны



князёў ці герояў, часам легендарных, сцвярджалі быццам бы больш высокае становішча роду. Напр., Даўмонты-Сясіцкія, П. якіх ад маёнтка Даўмонты, мелі прэтэнзіі на паходжанне ад легендарнага ўцянскага кн. Даўмонта; Сцыпіёна дэ Кампа (дэ Сцыпіо дэ Кампа) пераасэнсавалі імя продка Ерамії Сцыпіёнавіча Кампы, які нібыта паходзіў са Страж. Рыма. Існавалі П. наўмысна прыдуманыя з прэтэнзіяй на больш значнае паходжанне: Гімбуты-Кунасевічы прэтэндавалі на паходжанне ад міфічнага кн. Кунаса з роду Дарспрунка і на падставе гэтага ў 18 ст. ўжывалі княжацкі тытул; Карафа-Корбуты выкарыстоўвалі ў якасці П. лацінізаваную назву герба «Корчак», нібыта паходзілі ад італьянскага роду Карафаў. П. мог надаваць, па меркаванні тых, хто яго ўжываў, большую значнасць прозвішчу шляхам своеасаблівага падваення апошняга (Дробыш-Драбышэўскі, Баран-Бараноўскі, Малевіч-Малеўскі). У 18 ст. было модным ужываць у якасці П. назву маёнтка (на Нявярове Невяроўскі, на Востраве Венцлавовіч). У канцы 19—пач. 20 ст. ўзнікла мода скарыстоўваць у якасці П. назву герба (аднак некаторыя роды гербавыя П. ўжывалі яшчэ з 17 ст.). П. мела значная колькасць бел. шляхецкіх родаў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай толькі невял. частка шляхты была зацверджана ў дваранстве Рас. імперыі з падвоенымі прозвішчамі.

*Літ.*: Stekert A. Przydomki polskie, litewskie i rusińskie. Kraków, 1897.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**прыёр** (ад лац. prior першы, найважнейшы), настаяцель невялікага каталіцкага мужчынскага кляштара. Вялікі П. — службовая асоба ў духоўна-рыцарскіх ордэнах, рангам ніжэй за вял. магістра.

**прыказ Вялікага княства Літоўскага**, Літоўскі прыказ, Літоўскіх упраўных спраў прыказ, цэнтральная ўрадавая ўстанова ў Расіі ў 1656—67, створаная для кіравання землямі ВКЛ, заваяванымі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Кіраўнік — баярын С.Л.Стрэшнеў, які адначасова кіраваў і «Усцюжскай чвэрцю», таму персанал і тэхнічны апарат гэтых устаноў быў агульны, у астатнім яны былі поўнасцю самастойныя. Сваю дзейнасць прыказ ажыццяўляў праз мясцовыя органы ўлады — «воевод с товарищами». Праз прыказ праходзіла прызначэнне ваявод царом. На занятых тэрыторыях ён праводзіў перапіс гарадоў і шляхты з фіксацыяй колькасці зямлі кожнага шляхціца. Арганізоўваў збор падаткаў і работы па будаўніцтве гар. абарончых умацаванняў. З'яўляўся вышэйшай судовай установай для занятых тэрыторый, якой падпарадкоўвалася ўсё насельніцтва, нават тое, што было выведзена ў Расію. Праз прыказ праходзілі ўсе чалабітныя і скаргі з заваяваных зямель ВКЛ і адказы на іх. Займаўся таксама гандлёвымі справамі, якія тычыліся занятых тэрыторый: арганізацыяй закупак тавараў, выдачай прывілеяў, правоў на ўвоз тавараў. Для дзейнасці прыказа характэрны моцная цэнтралізаванасць (нават дробныя рашэнні на месцах праводзіліся праз прыказ) і асцярожнасць у вырашэнні мясцовых (бел.-літ.) спраў.

*Літ.*: Богословский М.М. Приказы Великого княжества Литовского и княжества Смоленского в Московском государстве // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1906. № 8; Бурдзейка А. Прыказ Вялікага Княства Літоўскага: (фонд установы і функцыі) // Зап. аддз. гуманіт. навук. Мн., 1929. Кн. 8.

**прыказца**, у ВКЛ вотчыннік, які аддаў свайго падданага на службу інш. гаспадару. «Прыказаць слугу» азначала аддаць яго на службу інш. пану. Парадак вырашэння спрэчных пытанняў і ўзаемаадносін паміж П. і другім бокам вызначаўся Статутамі ВКЛ.

**прыкаморкі**, мытні на адгалінаваннях ад асноўных гандлёвых шляхоў (гасцінцаў) у 16—18 ст. У П. ацэньвалі тавары і бралі з купцоў *мыта*. Падпарадкоўваліся адміністрацыі *каморы*.

**прылбіца**, шлем з рухомай часткай, якая засцерагае твар. П. старэйшага тыпу ўзніклі ў Еўропе ў 1-й пал. 14 ст. Лічыцца, што першапачатковую функцыю па ахове твару выконваў у П. рухомы наноснік, найчасцей у выглядзе падоўжанага трохвугольніка. Ніжні шырокі канец наносніка мацаваўся да падбародачнай часткі барміцы, верхні, забяспечаны пятлёй, чапляўся за спецыяльны кручок на лобнай частцы звона. Звісаючы ў свабодным стане, адчэплены наноснік нагадваў бараду, таму П. з наноснікам называлася «барбутай» (па-італьянску «барадач»). Барбуты фігуруюць у канцы 14 ст. сярод зброі, імпартаванай у ВКЛ з Польшчы. У 2-й пал. 14 ст. з'явіліся П. з заслонай-забралам, што цалкам закрывала твар і забяспечвалася візурай і адтулінамі для дыхання. Першапачаткова заслона, што адкідвалася на звон, мацавалася на 1 лобнай завесе, у далейшым пачалі выкарыстоўвацца 2 скроневыя шарніры. Для павышэння трываласці заслона набывала выцягнутыя абрысы, дзякуючы якім такі шлем, вельмі функцыянальны і грозны на від, атрымаў сярод сучасных збраязнаўцаў назву «псіная пыса», ці «псіны каптур». Яны неаднаразова фіксуюцца на пячатках літ. князёў. Выпрацаваўся балтыйскі, ці «прускі» тып П., характэрны для Тэўтонскага ордэна і ВКЛ, спецыфічнай рысай якога быў спічасты звон «рускай» формы. Вял. функцыянальнасць П. старэйшага тыпу абумовіла даволі позняя іх бытаванне, да пач. 16 ст. Аднак пошук найб. дасканалых форм баявых нагалоўяў прывёў да з'яўлення П. малодшага тыпу — т.зв. армэ, ці армет, якая была сканструявана ў Італіі каля 1420. Шлем выдатна ахоўваў галаву і быў вельмі зручны дзякуючы даданню да акруглага звона (пераважна з грэбенем), што шчыльна прылягаў да галавы, паўкруглых бакавых пласцін-«шчок». Яны расчыняліся ў бакі на завесах і замыкаліся на падбароддзі пры дапамозе металічнай кнопкі ці кручка. Заслона ў выглядзе кароткай дзюбы, забяспечаная візурай і вентыляцыйнымі адтулінамі, мацавалася на скроневых шарнірах. У 16 ст. побач з традыцыйнай армэ часцей выкарыстоўваліся П., у якіх месца пары шчок засцерагае суцэльны заслонападобны падбароднік, прымацаваны да звона на агульных з заслонай бакавых шарнірах. Замыканне падобных шлемаў на галаве ажыццяўлялася не на падбароддзі, а з абодвух бакоў шыі. Пасля 1520 падбароднікі некаторых П. сталі дапаўняцца металічнымі каўнярамі-абойчыкамі, прымацаванымі настала, што ліквідавала шчыліны ў раёне горла і практычна ператварыла шлем у адно цэлае з даспехам. У ВКЛ П. малодшага тыпу ўжываліся не раней за 16 ст. Найб. ранняя крыніца, якая фіксуе выкарыстанне такіх П., — карціна «Бітва пад Оршай» (1520-я г.). Каралеўская і соймавая ўстава аб земскай абароне



1528 абавязвала ўсіх землеўладальнікаў з кожных 8 службаў выстаўляць пахолка, на якім сярод іншага была б П. П. ў якасці рэкамендаванага шлема зацвярджалася таксама земскай ухвалай і Статутам ВКЛ 1529. У сярэдзіне 16 ст. П. стала неад'емнай часткай феад. арсеналаў. У ВКЛ выкарыстоўваліся да пач. 17 ст. З 16 ст. ў ВКЛ тэрмінам «П.» называлі таксама місюркі — паўсферычныя ці міскападобныя нагалоўі з кальчужнай барміцай, якая магла пакрываць не толькі вушы і карак, але часткова і твар воіна.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 34—43.

***Юрась Бохан.***

**прымас** (ад лац. primus першы), 1) у рымска-каталіцкай царкве тытул арцыбіскупа мітрапаліта, які валодае ганаровым (часам і юрыдычным) першынством над астатнімі біскупамі і мітрапалітамі пэўнай краіны. У царк. іерархіі займае 2-ю ступень пасля патрыярха. Тытул П. ўтварыўся гістарычна ў выніку надзялення біскупа пэўнай дыяцэзіі папскімі правамі першынства ў адносінах да інш. біскупаў краіны. Першапачаткова тытул П. выкарыстоўваўся таксама апостальскімі вікарыямі (духоўнымі пастырамі тэрыторый, якія не мелі статуса дыяцэзій). У Рэчы Паспалітай тытул П. меў арцыбіскуп мітрапаліт Гнезна, які прадстаўляў увесь касцёл дзяржавы і ўзначальваў царк. правінцыю, у склад якой уваходзіла і Віленскае біскупства. Акрамя духоўных прэрагатыў (замяшчаў нунцыя — папскага пасла — у час яго адсутнасці, склікаў агульнакраявыя сіноды, прымаў апеляцыі на біскупскія пастановы і інш.) тытул П. ў Рэчы Паспалітай меў паліт. значэнне. Ён выконваў абавязкі кіраўніка дзяржавы ў перыяд бескаралеўя, склікаў элекцыйныя соймы, меў першае пасля караля месца ў Сенаце і інш.

***Ігар Ганчарук.***

**прыходскія вучылішчы**, парафіяльныя вучылішчы, ніжэйшыя пачатковыя навучальныя ўстановы ў межах царкоўных праваслаўных прыходаў або каталіцкіх парафій. У Беларусі сталі вынікам развіцця школ граматы пры цэрквах і касцёлах. Да 1770-х г. большасць школ на Беларусі адносілася да П.в., акрамя *калегіумаў*. *Адукацыйная камісія* ўпершыню ўвяла афіцыйны падзел паміж рознымі тыпамі навучальных устаноў, што існавалі ў Рэчы Паспалітай. У адпаведнасці са статутамі 1774 і 1783 планавалася адкрываць П.в. на сродкі царквы і прыватныя ахвяраванні. Зыходзячы з фінансавых магчымасцей іх падзялялі на вялікія (2 класы і больш) і малыя (аднакласныя). Нагляд за імі павінны былі ажыццяўляць мясцовыя святары і візітатары з суседніх падакруговых школ. Абавязковым лічылася навучанне дзяцей чытанню, пісьму і лічэнню, але настаўнік па сваім жаданні мог пашырыць кола ведаў. У дапамогу настаўнікам Адукацыйная камісія выдала метадычны дапаможнік і агульны падручнік з практыкаваннямі па польскай граматыцы, арыфметыцы, малым катэхізісе, з лекцыямі па маралі і гігіене. Настаўнікаў для П.в. рыхтавала асобная пед. семінарыя, адкрытая ў Вільні ў 1775. Аднак недахоп сродкаў прыводзіў да пастаяннага скарачэння колькасці П.в. (у 1777 іх было 330, у 1781 — 276, у 1782 — 251). Для выпраўлення становішча з пач. 1790-х г. абавязак садзейнічаць развіццю сеткі П.в. ускладзены на цывільна-вайсковыя камісіі. Ліквідацыя Рэчы Паспалітай не дазволіла ажыццявіць гэтыя планы.

*Літ.*: Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968.

***Андрэй Самусік.***

**прэлат** (ад лац. praelatus вышэйшы, вышэйстаячы), у рымска-каталіцкай царкве тытул вышэйшага дыяцэзіяльнага і ордэнскага духавенства. Часам у знак асаблівай павагі гэты тытул ужываўся простымі вернікамі ў дачыненні да святароў.

**прэнгер** (ад ням. Pranger), слуп, да якога на пэўны час прыкоўвалі ланцугом ці абручом правапарушальніка. У ВКЛ такая мера выкарыстоўвалася ў 16—18 ст. і лічылася караннем сорамам. Ужывалася паводле прыгавору суда або грамады да вінаватых у нязначных злачынствах або ў замахах на грамадскія норавы і мараль. Каля П. адбываліся цялесныя пакаранні. П. звычайна ставілі ў людных месцах: на гандлёвай плошчы, каля царквы і інш.

**прэнт**, адзінка вымярэння даўжыні і плошчы; гл. *Прут*.

**прэнцік**, адзінка вымярэння даўжыні і плошчы, 1/10 *прута* (прэнта).

**Прэнскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1791—95. Цэнтр — г. *Прэны*. Створаны Чатырохгадовым соймам 1788—92 з паўд. парафій Ковенскага пав. Троцкага ваяв. і суседніх парафій Жамойці. У 1793 у крыху змененых межах П.п. уключаны ў склад Мерацкага ваяводства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) асн. частка П.п. на левабярэжжы Нёмана ўключана ў склад Прусіі, раёны на правабярэжжы Нёмана — у склад Рас. імперыі.

**Прэны** (літ. Прэнай, Prienai, горад, цэнтр Прэнскага р-на, Літоўская Рэспубліка), горад у Ковенскім пав., на р. Нёман. У 1502 П. ўпамінаюцца як дзярж. маёнтак (двор), у 1579 — мястэчка, у 1609 — горад. У 1580 і 1785 атрымалі прывілеі на правядзенне кірмашоў. У 1609 Каспер Горват заснаваў касцёл. У пач. 17 дзейнічала прыходская школа. Былі цэнтрам стараства, з 1791 — *Прэнскага павета*. 9.11.1791 атрымалі магдэбургскае права і герб з выявай св. Георгія на кані, забіваючага кап'ём цмока. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

**прэсвітэр** (ад грэч. presbyteros старэйшына), у раннехрысціянскай абшчыне асоба, якая кіравала яе справамі. Пасля ўзнікнення хрысціянскай царквы — святар і ўвогуле свяшчэннаслужыцель (у праваслаўі тэрмін П. звычайна ўжываецца як урачыстая назва святара). У пратэстантызме П. — адм. кіраўнік абшчыны, які, як і *пастар*, выбіраецца вернікамі са свайго асяроддзя. У прыхільнікаў кальвінізму П. называўся таксама сіньёр.

**псальмы** (ад лац. psalmus псалом), канты, духоўныя вакальна-харавыя сілабічныя песні калялітургічнага ўжытку. Вытокі П. у кніжнай сілабічнай паэзіі і сілабічнай літургічнай песеннай паэзіі. На нар. мовах узніклі ў зах. славян каля 12 ст. пад назвай «кант». Ва ўсх. славян часцей называліся «П.», па аналогіі з творамі Псалтыра. У ВКЛ сустракаюцца з пач. 17 ст. і звязаны з уніяцкай царквой, у прыватнасці, з дзейнасцю *базыльянаў*. Як і ў католікаў, П. спяваліся вернікамі-уніятамі ў дадатак да набажэнства, пасля закан-



чэння аднаго чыну і перад пачаткам іншага, у секвенцыях, на Каляды і Вялікдзень, у час Вял. посту (адвент). Маглі выконвацца таксама ў дамах, на царк. святы. П. з'явіліся ва уніяцкіх манастырах і царк. школах (напрыклад, пры практыкаванні ў сілабічнай паэзіі), распаўсюдзіліся таксама сярод праваслаўных, у 18 ст. трапілі ў свецкае асяроддзе (праз вучняў і жабруючых манахаў), да *старцаў*. Часам П. фальклярызаваліся і ўваходзілі ў калядныя, валачобныя, вясельныя, пахавальныя абрады беларусаў. П. перакладаліся з лац. і польскай моў, але былі і арыгінальныя творы (Сімяон Полацкі, Дзмітрый Растоўскі, Епіфаній Славінецкі, Стафан Яворскі, Феафан Пракаповіч і інш.), ранейшыя творы нярэдка зазнавалі перапрацоўкі. Аўтары П. часам пакідалі свае імёны ў акравершах. Мова большасці П. неаднародная, адны песні напісаныя на старабел. мове, іншыя — на царк.-слав., часта з дадаткам польскіх, бел. ці ўкр. элементаў. Паводле памеру П. прадстаўлены пераважна двувершам аднолькавай ці радзей няроўнай даўжыні (6—8 ці 10—15 складоў), аднак сілабізм часта не вытрымліваўся. П. пераймалі зах. версіфікацыйную тэхніку, але грунтаваліся на матэрыяле царк.-слав. духоўных вершаў літургічнага паходжання. Вобразнасць П. залежыць ад біблейнай і агіяграфічнай л-ры (у т.л. лацінскай), уключае цытаты і рэмінісцэнцыі з літургічных, апакрыфічных твораў, значныя эсхаталагічныя, месіянскія матывы, рэдка — фальклорныя ці антычныя матывы. Тэматыка П. — пра Хрыста, Багародзіцу, святых, рэлігійныя святы і рытуалы, шанаваныя абразы, часта сустракаюцца песні філасофскага, маралістычнага зместу (пакаяльніцкая тэматыка). П. часта запісваліся ў ненатаваныя і малафарматныя зборнікі — багагласнікі, ці кантычкі (інш. назвы: песнцы, песнапенні, песняпісцы, ірмалоі, ірмалагіёны і інш.), вядомыя з 1660-х г., першапачаткова ў зах. Беларусі, але ў асноўным, з пач. 18 ст., у паўд.-зах. Украіне, дзе адзін з багагласнікаў (каля 250 песняў) быў упершыню надрукаваны (Пачаеў, 1790). Зрэдку бел. і ўкр. П. пранікалі ў польскія спеўнікі (Супрасль, Пачаеў, Львоў) і нават выдаваліся польскім пісьмом, напрыклад, «Кантычка, або набожныя песні ў дыялекце полацкім» (Полацк, 1774), выпушчаная езуітамі. Бел. і ўкр. эмігранты-царкоўнікі ў 1660-я г. прынеслі П. ў Масковію, аднак іх папулярнасць у Расіі (у т.л. сярод старавераў) прыпадае на 18 ст. У музычным аспекце П. адпавядаў партэсны спеў.

*Літ.*: Щеглова С.А. «Боголасник»: Историко-литературное исследование. Киев, 1918; Позднеев А. В. Песенная книжная поэзия в славянских странах // Тр. Отдела древнерусской литературы. Л., 1963. Т. 19; Яго ж. Рукописные песенники XVII—XVIII веков: Из истории песенной силлабической поэзии. 2 изд. М., 1996; Horálek K. Slabičny verš v slovanské lidové poezii // Salvia. 1963. Roč. 32. Seš. 1; Pichura G. The Podobny Texts and Chants of the Supraśl Irmologion of 1601 // The Journal of Byelorussian Studies. 1970. Vol. 2. № 2; Костюковец Л.Ф. Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; Івченко В.І., Крекотень Л.В. Український кант XVII—XVIII століть. Київ, 1990; Гнатюк О. Українська духовна бароккова пісня. Варшава; Київ, 1994; Ясиновський Ю. Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть. Львів, 1996; Роте Х. Западная (польская) духовная песня на восточнославянской почве: Опыт постановки задачи // Traduzione e rielaborazione nelle letterature di Polonia, Ucraina e Russia XVI—XVIII secolo. Alessandria, 1999.

***Ігар Клімаў.***

**псарцы**, лоўчыя псарэцкія, катэгорыя *сялян-слуг* у ВКЛ. Былі найбольш пашыраны ў дзярж. і прыватных уладаннях у 15—16 ст. У абавязкі П. уваходзіла гадаванне, догляд, дрэсіроўка розных парод сабак (у асн. для палявання), падрыхтоўка палявання для пана і ўдзел у ім. Пры неабходнасці П. ўдзельнічалі ў ваенных паходах. За службу атрымлівалі зямельныя надзелы і былі вольныя ад інш. павіннасцей. У дзярж. уладаннях у час *валочнай памеры* 16 ст. П. аднесены да дваровых слуг, служылі з 2 «вольных» валок зямлі. Калі П. не выконвалі сваіх абавязкаў пры гаспадарскім двары, то плацілі з абодвух або з адной валокі чынш. У гаспадарскіх уладаннях П. было найбольш у Гарадзенскай эканоміі. З канца 16—пач. 17 ст. служба П. не была запатрабавана дзяржавай, і яны паступова перайшлі ў стан чыншавых сялян. У прыватных уладаннях П. захаваліся пры магнацкіх псярнях да 18 ст. ўключна.

***Алесь Доўнар.***

**Пскоўская рэспубліка**, феадальная дзяржава са сталіцай у Пскове ў бас. р. Вялікая, Нарва, азёр Чудскага і Пскоўскага ў 2-й пал. 13—пач. 16 ст. Да сярэдзіны 13 ст. (юрыдычна да Болатаўскага дагавора 1348) у складзе *Наўгародскай рэспублікі*. Дзярж. лад падобны на наўгародскі: вышэйшы орган улады — веча, што выбірала пасаднікаў, соцкіх, суддзяў, рэгулявала адносіны феадалаў, пасадскіх людзей, земляробаў, смердаў, абмяжоўвала ўладу князя. Вял. ўплыў на веча мела рада баяр — гаспода. Пскоў быў значным цэнтрам кніжнай культуры, летапісання (гл. *Летапісы пскоўскія*), выяўленчага мастацтва, архітэктуры. Вылучэнне П.р. са складу Ноўгарада звязана з дзейнасцю выхадца з ВКЛ кн. *Даўмонта*, які княжыў у Пскове ў 1266—99. Пасля смерці ён быў кананізаваны як святы пад правасл. імем Цімафей і шанаваўся як абаронца Пскова (сімвалам пскоўскай дзяржаўнасці лічыўся меч Даўмонта). Пры Даўмонце і пазней Пскоў неаднаразова ваяваў з Полацкім княствам і ВКЛ, часам выступаў і ў саюзе з імі супраць Лівонскага ордэна. Найб. цесны саюз з ВКЛ існаваў у 1341—49, калі служылым князем у Пскове быў *Андрэй Альгердавіч* (прадстаўлены сваім намеснікам Юрыем Вітаўтавічам). У 1342 пры абароне П.р. ад крыжакоў загінуў Любка — сын полацкага кн. *Воіня*. У адрозненне ад Ноўгарада, з пач. 14 ст. Пскоў паслядоўна праводзіў прамаскоўскую і антылівонскую палітыку, лічыў Маскву адзіным надзейным абаронцам ад тэр. прэтэнзій Лівонскага ордэна, Ноўгарада і ВКЛ. Паводле *Салінскага дагавора 1398* і *Рацёнжскага дагавора 1404* ВКЛ абавязвалася садзейнічаць у далучэнні П.р. да ўладанняў Лівонскага ордэна; у 2-й пал. 1410-х г. рымскія папы Іаан XXIII і Марцін V выдалі некалькі булаў, у якіх прызнавалі Вітаўта і Ягайлу «генеральнымі вікарыямі» Ноўгарада і Пскова. У час войнаў 1406—08 і 1426 Вітаўт беспаспяхова спрабаваў устанавіць уладу над П.р. У бел. летапісах 16 ст. паведамляецца пра намесніцтва ад імя Вітаўта ў Пскове ў 1410—20-х г. кн. Юрыя Носа (гл. ў арт. *Нарымунтавічы*), але гэта не пацвярджаецца рус. крыніцамі. У 1443 намеснікам маскоўскага вял. кн. Васіля II у Пскове быў выхадзец з ВКЛ кн. Аляксандр Чартарыйскі. У 1456, 1471 і 1478 П.р. актыў-

на падтрымала захады Масквы па абмежаванні, а потым і скасаванні незалежнасці Ноўгарада, выступіла на баку Масквы ў *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. Як буфернае ўтварэнне на мяжы з Лівонскім ордэнам П.р. існавала да 1510, калі яе тэрыторыя была канчаткова далучана да *Рускай цэнтралізаванай дзяржавы*.

*Літ.*: Псковские летописи. Вып. 1—2. М.; Л., 1941—55; Масленникова Н.Н. Присоединение Пскова к Русскому централизованному государству. Л., 1955; Охотникова В.И. Повесть о Довмонте. Л., 1985; Псковская энциклопедия, 903—2003. Псков, 2003; Аракчеев В.А. Псковский край в XV—XVII веках: Общество и государство. СПб., 2003; Яго ж. Средневековый Псков: власть, общество, повседневная жизнь в XV—XVII веках. Псков, 2004; Валеров А.В. Новгород и Псков: Очерки политической истории Северо-Западной Руси XI—XIV веков. СПб., 2004.

***Алесь Белы.***

**Пташыцкі** (Ptaszycki) Станіслаў Людвік (Станіслаў Львовіч; 12.4.1853, в. Кузава Маскоўскай губ.—20.12. 1933), гісторык, архівіст, філолаг. Чл. Польскай АН у Кракаве (1931), канд. гіст-філалагічных навук (1877), ганаровы праф. (1929). Скончыў сярэднюю школу ў Вільні (1872), Пецярбургскі ун-т (1877). Працаваў ва ун-це асістэнтам на кафедры славянскай філалогіі і адначасова перакладчыкам з польскай мовы ў 3-м дэпартаменце Сената. З 1879 выкладаў рус. і лац. мовы, а таксама л-ру ў Пецярбургскай архідыяцэзнай семінарыі і гімназіях. Праводзіў даследаванні ў б-ках і архівах Пецярбурга, Галіччыны, Польшчы, Аўстрыі, Італіі, Германіі. У 1884—87 метрыкант «Літоўскай метрыкі» ў архіве Сената. У 1887 апублікаваў «Вопіс кніг і актаў Літоўскай метрыкі». Прымаў удзел у дзейнасці арганізацыйных камітэтаў археал. з'ездаў у Вільні (1893) і Рызе (1896), з'езда славянскіх гісторыкаў і філолагаў (1904). З 1896 дацэнт Пецярбургскага ун-та, выкладаў польскую л-ру і мову. У 1899—1918 выкладчык, пасля прафесар рус. мовы і л-ры ў Пецярбургскай рымска-каталіцкай акадэміі. У 1918—19, 1921—26 дырэктар Дзярж. архіва ў Любліне, адначасова ў 1918—19 і 1921—29 праф. Люблінскага каталіцкага ун-та, у 1919—20 дэкан філасофскага ф-та Віленскага ун-та. Прымаў удзел у падрыхтоўцы Рыжскага мірнага дагавора 1921 як эксперт па справах архіваў і бібліятэк. У 1926—31 дырэктар Дзярж. архіваў Польшчы. Ініцыятар выдання і рэдактар (1927—32) часопіса па архівазнаўстве «Archeion» («Археён»). Вывучаў л-ру 16 ст. (польскія хронікі, творчасць М.Рэя, А.Кшыцкага, А.Нідэцкага), шмат прац прысвяціў гісторыі ВКЛ. Удзельнічаў у падрыхтоўцы т. 17 «Поўнага збору рускіх летапісаў» (1907), дзе былі апублікаваны бел.-літ. летапісы. Знайшоў і апублікаваў *Альшэўскі летапіс* (Вільня, 1907). Выдаў *попісы войска* ВКЛ 1528, 1565 і 1567 (1915). У нясвіжскай б-цы Радзівілаў выявіў рукапіс твора М.Стрыйкоўскага «Аб пачатках літоўскага народу». Даследаваў права ВКЛ.

*Тв.*: Деспоты Зеновичи в конце XVI и начале XVII вв. // Русская старина. 1878. Т. 21—22; К истории литовского права после третьего Статута. СПб., 1893; К вопросу об изданиях и комментариях Литовского Статута: Ист.-библиогр. справка. СПб, 1893; Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича: Краткие сведения о собрании рукописей. М., 1899; Князья Пузыны: Ист.-генеал. материалы. СПб., 1899; Encyklopedia nauk pomocniczych historii i literatury polskiej. 2 wyd. Lublin, 1922.

*Літ.*: Bachulska H. Bibliografia prac Stanisława Ptaszyckiego, 1877—1934 // Archeion. 1934. T. 12.

***Альбіна Семянчук.***

**пуд**, адзінка вымярэння масы. Вядомы з 12 ст., выкарыстоўваўся да 1924 пры ўзважванні мёду, воску, збожжа, рэчаў. Адпавядаў 12 бязменам, або 40 фунтам (16,3799 кг). Пры разліках за правіянт і фураж у 1792—93 на Беларусі рас. ўлады прыраўноўвалі П. да каменя сена (40 фунтаў, або 16,3805 кг). Меў таксама значэнне зямельнага ўчастка, абкладзенага натуральным падаткам (6 бязменаў мёду ў Прапойскім старастве, 1681), або валокі (маёнтак Горваль, 1676, 1791 і інш.).

*Літ.*: Баталин Ф.А. Календарь и справочная книжка русского сельского хозяина на 1883 г. СПб., 1883; Памятная книжка Минской губернии на 1900 г. Мн., 1899; Каменцева Е.И., Устюгов Н.В. Русская метрология. 2 изд. М., 1975.

***Яўген Анішчанка.***

**Пузына** (Puzyna) Юзаф Эдвард (24.9.1878, в. Грымяча Камянецкага р-на—20.1.1949), гісторык, пісьменнік, паэт. З роду князёў *Пузынаў*. Вучыўся ў Фрыбурскім ун-це (Швейцарыя), дзе атрымаў доктарскую ступень. З 1919 у Польшчы, працаваў у міністэрстве замежных спраў, рэдактарам час. «Messager Polonais» («Польскі веснік», напаўафіцыйнае выданне міністэрства). Пасля выхаду ў адстаўку жыў у в. Вял. Бераставіца каля Гродна, з 1939 у Варшаве. З 1944 працаваў у Чанстахове кіраўніком аддзела культуры магістрата. Аўтар вершаў, паэм, драм, аповесцей. Вывучаў праблемы паходжання княжацкіх родаў ВКЛ, іх паліт. ролю ў жыцці дзяржавы. Аўтар працы «Вялікае княства Літоўскае да Міндоўга» (часткова апублікавана ў 1937). У 1930-х г. чл. рэдакцыі час. «Miesięcznik heraldyczny» («Геральдычны штомесячнік»). Аўтар мемуараў пра пісьменніцу М.Радзевіч.

*Тв.*: Switrigail von Litauen: Die politische Begeutung seiner Erhebung zum Grossfürsten. Fribourg, 1914; Korjat i Korjatowicze // Ateneum Wileńskie. 1930. R. 7, z. 3—4; Kim był i jak się naprawdę nazywał Pukuwer, ojciec Giedymina // Там жа. 1935. R. 10; Korjat i Korjatowicze i oraz sprawa podolska // Там жа. 1936. R. 11; Potomstwo Narymunta Giedyminowicza // Miesięcznik heraldyczny. 1932. № 10; W sprawie pierwszych walk Litwinów z Tatarami o Ruś, 1238—1243 // Przegląd historyczno-wojskowy. Warszawa, 1937. T. 9.

*Літ.*: Jodkowski J. Józef Edward Puzyna // Kwartalnik historyczny. 1949. Z. 1/4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пузыны**, княжацкі род герба «Брама» («Агінец»). Вядуць радавод ад Рурыкавічаў, з 16 ст. выводзілі сябе ад чарнігаўскіх князёў, уладальнікаў г. Казельск каля Калугі, аднак дакументальна гэта не пацверджана. Родапачынальнік Васіль Глушонак выслужыў у вял. кн. Казіміра землі на Смаленшчыне, у пач. 1480-х г. перайшоў да вял. князя маскоўскага Івана III. Яго нашчадкі засталіся ў ВКЛ. Найб. вядомыя:

Алехна Васілевіч (мянушка Глазына; ?—1500?). У 1450-х г. вызначыўся ў вайне з чэшскім правіцелем Іржы Падэбрадам. Атрымаў ад вял. князёў Казіміра і Аляксандра землі на Смаленшчыне, Опсу пад Браславам. Акольнічы смаленскі ў 1486—1500, намеснік лучынскі ў 1494—1500.

Іван Васілевіч (мянушкі Глазыніч, Пузынін). У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1492—94 перайшоў да Івана III. Яго сыны Міхаіл, Дзмітрый, Іван, Леў, Андрэй, Юрый засталіся ў ВКЛ.

Міхаіл Іванавіч (мянушкі Глазыніч, Глушонак), сын Івана Васіле-

віча. У *бітве на Вярдошы 1500* трапіў у маскоўскі палон.

Дзмітрый Іванавіч (мянушка Глушонак; ?—1510?), сын Івана Васілевіча. У 1486—87 атрымаў ад вял. кн. Казіміра землі на Смаленшчыне, ад вял. кн. Аляксандра — Агінты ў Жыжмарскім пав. Ад яго сына Багдана пайшоў род князёў *Агінскіх*.

Іван Іванавіч (мянушкі Глушонак, Пузына; ?—1515), сын Івана Васілевіча. За страчаныя ў час войнаў з Маскоўскай дзяржавай землі на Смаленшчыне атрымаў у 1514 ад вял. кн. Жыгімонта І Старога маёнтак Носава ў Мельніцкім пав.

Багдан Цімафеевіч (?—1571), унук Івана Іванавіча. Служыў каралеве Боне, пасля Жыгімонту ІІ Аўгусту. Маршалак гаспадарскі з 1567. Меў маёнткі пад Клецкам, Гародняй.

Аляксандр (у манастве Афанасій; ? — 1650), сын Юрыя. Паборца валынскі ў 1613, пасол на соймы 1616, 1618, 1632. Змагаўся супраць увядзення уніяцтва. У 1632 абраны правасл. епіскапам луцкім і астрожскім (яму падначалены і праваслаўныя Пінскага пав.), з 1633 архімандрыт жыдычаўскі. У 1648 падтрымаў паўстанне Б.Хмяльніцкага.

Геранім (?—1657), сын Яна. Удзельнічаў у вйнах з туркамі. Пасол на соймы 1632, 1649—50, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1630, 1644. У 1640—50-я г. адзін з найб. актыўных абаронцаў кальвінізму ў ВКЛ.

Андрэй (?—1701), сын Гераніма. Стараста ўпіцкі, кашталян менскі з 1697.

Міхал (?—1723), сын Андрэя. Рэгент меншай канцылярыі ВКЛ у 1699—1717, харужы надворны ў 1712—17, пісар вялікі ВКЛ з 1717. Пасол на сойм 1697. Удзельнік Алькеніцкай бітвы 1700 з Сапегамі. У час *Паўночнай вайны 1700—21* падтрымліваў Аўгуста ІІ. У 1712 і 1720 пасол да цара Пятра І.

Крыштоф Дамінік (?—2.11.1731), сын Андрэя. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Падстолі ўпіцкі ў 1695 і стараста ў 1696—1720, мсціслаўскі кашталян з 1720 (або 1722) і ваявода з 1730. Пасол на соймы 1696, 1697, 1712—13, 1718, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1727. У час Паўн. вайны 1700—21 камандаваў харугвамі войска ВКЛ, падтрымліваў Аўгуста ІІ.

Пётр (21.7.1664—1.3.1717), сын Яна Казіміра, падчашага ўпіцкага. Вучыўся ў Вільні, Пінску, Нясвіжы. З 1677 езуіт. Выкладаў у езуіцкіх навучальных установах у Навагародку, Ломжы, Пултуску, Нясвіжы, Крожах, Оршы. У 1709—13 рэктар Нясвіжскага калегіума. Аўтар паэтычных твораў, перакладаў, прац па рыторыцы і этыцы.

Стафан Міхал (21.12.1667, г. Упіта—5.3.1738), сын Андрэя. Д-р філасофіі (1705) і тэалогіі (1734). З 1685 езуіт. Вучыўся ў Вільні, Пінску, Нясвіжы. Выкладаў у езуіцкіх навучальных установах у Пінску, Гародні, Крожах, Вільні, Полацку, Браневе, Варшаве. У 1717—34 узначальваў езуіцкую друкарню ў Варшаве, дзе выдаваў свае тэалагічныя, філасофскія і геаграфічныя працы і пераклады.

Юзаф (?—5.3.1752), сын Уладзіслава. Д-р тэалогіі і кананічнага права. Канонік смаленскі ў 1717, віленскі з 1726, біскуп інфлянцкі з 1740.

Антоні Міхал (?—24.3.1752), сын Андрэя. Харужы ўпіцкі з 1717 і стараста ў 1724—32, харужы надворны з 1728, кашталян мсціслаўскі з 1746.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 93—94, 405—410; Пташицкий С.Л. Князья Пузыны: Ист.-генеал. материалы. СПб., 1899.

***Валерый Пазднякоў.***

**Пуласкія**, шляхецкі род герба «Слепаўрон». Паходзілі з Падляшша, дзе валодалі засценкам Пулазы ў Бранскім пав. Бельскай зямлі. Найб. вядомыя:

Юзаф (ахрышчаны 17.2.1704 — каля 20.4.1769), займаў судовыя пасады, кіраваў маёнткамі магнатаў. Прыхільнік групоўкі *Чартарыйскіх*. У 1744—50 выбіраўся пасломі на соймы. З 1754 звязаны з гетманам польным кароным Я.К.Браніцкім. Удзельнік *Радамскай канфедэрацыі*. Удзельнічаў у заснаванні *Барскай канфедэрацыі* (1767—68), абраны яе маршалкам. Пасля захопу г. Бар рас. войскам адышоў з атрадам на тэр. Турцыі, дзе памёр у зняволенні.

Францішак Ксаверы (26.11.1743—15.9.1769), сын Юзафа. Удзельнік Барскай канфедэрацыі з часу яе заснавання. Ваяваў на Украіне, у чэрв. 1768 выцеснены з атрадам у Турцыю. Пасля далучыўся да войска свайго брата Казіміра, у чэрв.—ліп. 1769 удзельнічаў у рэйдзе па тэр. ВКЛ. З лагера пад Берасцем звярнуўся да К.С.Радзівіла Пане Каханку з заклікам перадаць пад камандаванне канфедэрацыі свае войскі, але атрымаў адмову. 15.6.1769 выдаў універсал да жыхароў ВКЛ з заклікам змагацца супраць рас. войска і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Арганізаваў мясцовыя канфедэрацыі ў Берасці, Ваўкавыску, Слоніме. У вер. 1769 прымаў удзел у 2-м паходзе па тэр. ВКЛ, у час адыходу загінуў пад Уладавай.

Казімір (ахрышчаны 6.3.1745, г. Варшава — 11.10.1779), сын Юзафа. Удзельнік Барскай канфедэрацыі, палкоўнік. Ваяваў на Украіне, у чэрв. 1769 рушыў з войскам да Берасця і Кобрына. У Ламазах падначаліў сабе полк Ю.*Беляка*, у Сухой Волі — полк А.М.Карыцкага, пасля некаторыя іншыя часці войска ВКЛ. 6.7.1769 у 10-гадзіннай бітве перамог рас. войскі пад в. Кукалкі каля Ваўкавыска. У Слоніме папоўніў сваю армію рыштункам і гарматамі. 12.7.1769 адбіў атаку на горад рас. войск, якія панеслі вял. страты, але быў вымушаны пакінуць Слонім. Адмовіўся ад маршу на Нясвіж і з мяст. Мыш з баямі рушыў на Гародню. У гэты час яго войска вырасла да 4000 чал. Правёў баі з рас. атрадамі пад Моўчаддзю (16 ліп.) і Дварцом. Пад Гародняй перадаў камандаванне Ю.Сапегу і выехаў у Польшчу. Перамогі на тэр. Беларусі зрабілі Казіміра найб. аўтарытэтным дзеячам Барскай канфедэрацыі. У вер. 1769 арганізаваў новы паход на тэр. Беларусі з Украіны. Каля Кобрына быў атакаваны 4 калонамі рас. войск і адышоў за Буг. У баях пад Арэхавам (13 вер.) і Уладавай (15 вер.) разбіты. У вер. 1770 яго войскі авалодалі ўмацаваным кляштарам у Чанстахове. У сувязі з замахам на Станіслава Аўгуста Панятоўскага канфедэраты рушылі ў кастр. 1771 да Варшавы, але разбіты пад Скарышэвам. У маі 1772 Казімір пакінуў Чанстахову і эмігрыраваў у Саксонію, потым Францыю, Турцыю, вясной 1777 пераехаў у ЗША. У званні генерала кавалерыі арганізаваў там легіён з некалькіх соцень коннікаў. У сак. 1779 атрымаў перамогу над англійскім войскам пад Чарлстанам. Загінуў у час аблогі Саванны. Як нац. герою ЗША яму пастаўлены помнікі ў Вашынгтоне, Саванне, Вест-Пойнце.



А н т о н і (9.3.1747—26.2.1813), сын Юзафа. Удзельнік Барскай канфедэрацыі. У 1769 трапіў у рас. палон, быў у зняволенні ў Кіеве, Казані, Арэнбургу. Удзельнічаў у падаўленні паўстання Е.Пугачова, за што яму было дазволена вярнуцца на радзіму (1775). Пасол на соймы 1778, 1784, 1786. Быў правадніком рас. палітыкі ў Рэчы Паспалітай, праціўнікам прагрэсіўных рэформ, *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Стаў адным з лідэраў *Таргавіцкай канфедэрацыі*, у 1793 у Берасці і Гародні выконваў абавязкі яе маршалка. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) жыў на Валыні.

***Валерый Пазднякоў.***

**пулгак**, агульная назва кароткай стрэльбы або пісталета ў 17 ст., якія выкарыстоўваліся як у баявых дзеяннях, так і ў паляванні.

**Пунскія**, род татарскіх царэвічаў у ВКЛ. Паходзілі ад царэвіча Енбек-салтана, сына Халек-салтана — пляменніка Шах-Ахмата, апошняга хана Вял. (Заволжскай) Арды, які ў пач. 16 ст. ў якасці ганаровага палоннага знаходзіўся ў ВКЛ. Енбек-салтан упамінаецца ў попісе войска ВКЛ 1528. У 1542 вял. кн. Жыгімонт I Стары на просьбу «царэвіча Пунскага» аб маёнтку загадаў выдаваць яму штогод замест ранейшых 50 ужо 100 коп грошаў. У гэты час Енбек-салтан з сям'ёй атрымаў землі ў Пунскай вол. каля Аліты і маёнтак Калдычэва ў Навагародскім ваяв. Меў сыноў Іслама, Цімура і Селіма, якія выкарыстоўвалі і княжацкі тытул. У 1571—85 яны прадалі Калдычэва канцлеру ВКЛ А.Валовічу. У 1576 Іслам Енбекавіч за заслугі ў баявых дзеяннях супраць рас. і шведскіх войск у Інфлянтах атрымаў ад вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста прывілей на с. Янушкава ў Пунскай вол., пасля — новыя наданні ад Генрыка Валезы і Стафана Баторыя. Паводле попісу 1567, П. выстаўлялі ў войска 3 коннікаў. Як і царэвічы *Астрынскія*, П. не ўваходзілі ў склад татарскіх харугваў, а мелі права (як князі і паны) з'яўляцца са сваім атрадам непасрэдна да гетмана. Унукі Енбек-салтана захавалі княжацкі тытул, а тытул царэвічаў П. ператварыўся ў прозвішча. Яны прадалі землі пад Пунямі і Паложына ў Менскім ваяв., дзе яшчэ ў канцы 17 ст. валодалі часткай маёнтка Руднікі. У 18 ст. гэты род, відаць, згас.

*Літ.*: Д у м и н С.В. Татарские царевичи в Великом княжестве Литовском (XV—XVI вв.) // Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исслед., 1987 г. М., 1989; Я г о ж. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991. [T.]. 20.

***Валерый Пазднякоў.***

**пур**, адзінка масы. Выкарыстоўваўся пераважна ў Інфлянтах для вымярэння збожжа, льнянога семя і інш. Устава ВКЛ 1765 замацавала П., роўны 24 гарцам (1/6 літ. бочкі), або 72 гарцам бялыніцкай меры (78,72 л). Існавалі П. ў 32—36 шынковых гарцаў (мяст. Соржыца каля Віцебска, 1767), 72 гарцы (1 рус. чвэрць=7,5 пудоў=209,9 л; в. Чурылава, 1782—86). Выкарыстоўваўся да канца 19 ст.

*Літ.*: Г о р б а ч е в с к и й Н. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874; С е м е н т о в с к и й А.М. О мерах и весе, употребляемых в Витебской губернии. Витебск, 1874; Т о н б и А. Лифляндское аграрное законодательство в XIX столетии. Рига, 1900; З е м з а р и с Я.К. Метрология Латвии в период феодальной раздробленности и развитого феодализма (XIII—XVI вв.) // Проблемы источниковедения. М., 1955. Т. 4.

***Яўген Анішчанка.***

**пустаўшчына**, назва ў крыніцах ВКЛ 15—16 ст. сялянскага надзелу, што па нейкай прычыне (смерць, голад, галеча) застаўся без селяніна, які ім карыстаўся, і таму не прыносіў даходу феадалу. Звычайна П. раздаваліся іншым сялянам за пэўныя павіннасці.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута: Ист. очерки. М., 1893.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**путныя баяры**, п у т н ы я с л у г і, катэгорыя *сялян-слуг* у ВКЛ у 15—18 ст. Былі ў дзярж., прыватных і царк. уладаннях. У 15—1-й пал. 16 ст. павіннасці П.б. у асн. заключаліся ў нясенні ваеннай і кур'ерскай службы, выкананні талок у час жніва і інш. У гэты час дзяржава раздавала П.б. прыватным асобам, а стан П.б. купляўся цяглымі людзьмі («бояры вкупные»). *Устава на валокі 1557* адзначае П.б. толькі як ваеннаабавязаных, якія павінны былі ставіць на вайну 1 конніка з 2 валок. У мірны час П.б. плацілі толькі чынш, з іх складу фарміраваліся *служкі*. З 2-й пал. 16 ст. П.б. выконвалі ў асноўным кур'ерскую службу і плацілі чынш. У 18 ст. П.б., якія неслі ваенную, кур'ерскую службы, наз. *баярамі*, баярамі ліставымі і, асабліва з 2-й пал. 18 ст., *зямянамі*. Назва «П.б.» замацавалася за баярамі асн. павіннасцю якіх, дадаткова да чыншу, стала перавозка грузаў унутры і па-за межамі маёнткаў. У сувязі з тым, што ў 17—18 ст. асн. павіннасцю П.б. быў чынш, баярамі сталі называць і інш. катэгорыі сялян, якія плацілі чынш і не выконвалі паншчыны. Па забяспечанасці зямлёй П.б. знаходзіліся ў лепшым становішчы ў параўнанні з інш. катэгорыямі сялянства. У сац. плане вылучаліся з асн. масы сялянства (мелі свае абшчыны, часта выступалі асобна ад інш. сялян і інш.) і імкнуліся захаваць сваё становішча.

***Алесь Доўнар.***

**Путувер** (? — каля 1292), літоўскі князь. Упамінаецца нямецкім храністам *Пятром з Дусбурга* ў «Хроніцы зямлі Прускай» пад 1291 як «літоўскі кароль», які накіраваў свайго сына Віценя з вял. войскам у набег на Польшчу. Гатычны шрыфт рукапісу дазваляе чытаць імя князя як Лютувер (Lutuwerus) або, больш дакладна, П. (Putuwerus). Гэта звестка пра П. правакавала даследчыкаў на домыслы. Т.Нарбут звярнуў увагу на познія звесткі Хронікі Быхаўца пра паходжанне Віценя «з имени держачого в Жомойти реченного Айрагойла» і прыводзіў паданне пра Лютавора — марскога пірата, заснавальніка Эйраголы, які пасля смерці Траняты ў 1264 нібыта атрымаў Полацкае княства. Пры гэтым Нарбут спасылаўся на «Раўданскі рукапіс» — польскамоўны твор, вядомы толькі яму, які, відаць, быў прыдуманы самім Нарбутам або кімсьці з яго знаёмых. Ю.Пузына прыводзіў імя П. ў форме «Пукувер» і выказваў меркаванне, што яго можна атаясаміць з адным з літ. князёў, упомненых Іпацьеўскім летапісам у 1289, — *Будзікідам* або, хутчэй, яго братам *Будзівідам*. Е.Ахманскі звяртаў увагу на рус. твор канца 14 ст. «Задоншчыну», у якой Гедзімінавічы названы «праўнукамі Скаламендавымі», на падставе чаго меркаваў, што іх родапачынальніка (бацьку П.) звалі Скаламендам.

*Літ.*: Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. Wilno, 1838. T. 4. S. 310—313; Puzyna J. Kim był i jak się naprawdę nazywał Pukuwer, ojciec Giedymina // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Охманьский Е. Гедиминовичи — «правнуки Сколомендовы» // Польша и Русь. М., 1974; Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской: Пер. с лат. М., 1997.

***Вячаслаў Насевіч.***

**пушкары**, катэгорыя ваенна-служылых людзей у ВКЛ у 15—18 ст. З 15 ст. П. называлі артылерыстаў, пазней, да канца 16 ст. і ліцейшчыкаў гармат. П. былі пры дзярж. і прыватных гарадах і замках, у 16—17 ст. арганізоўваліся ў атрады. У час вайны П. павінны былі знаходзіцца пры гарматах на ўмацаваннях горада ці замка. Служба П. была спадчынная, яны выраблялі і даглядалі порах, боепрыпасы для ружжаў і гармат, а таксама выраблялі і рамантавалі самі ружжы, радзей гарматы. У прыватных замках П. выконвалі кавальскія работы, некаторыя паліцэйскія функцыі. Гар. П. адказвалі за стан абарончых умацаванняў каля баявых пазіцый гармат. П. мелі харчовае і грашовае ўтрыманне; дадаткова маглі атрымліваць вольныя ад падаткаў зямельныя надзелы (ад 0,5 да 6 валок, пераважна па 2 валокі), млыны, корчмы і інш. У 18 ст. ў сувязі з развіццём артылерыі, зменай тактыкі ваенных дзеянняў роля гар. і замкавых умацаванняў зменшылася, таму П. паступова замяняліся артылерыстамі рэгулярных войск ВКЛ і войск магнатаў. У прыватных гарадах П. пэўны час захоўваліся як замкавыя рамеснікі.

***Алесь Доўнар.***

**пчалярства**, развядзенне і гадаванне пчол дзеля атрымання мёду, воску і іншых прадуктаў жыццядзейнасці пчалінай сям'і: пропалісу, матачнага малачка, пяргі, пчалінага яду і пылку. Першай формай культурнага П. было *бортніцтва* — развядзенне пчол у борцях, прыстасаваных натуральных або адмыслова выдзеўбаных штучных дуплах у жывых дрэвах. Наступны этап — калоднае П. Пачало развівацца з паяўленнем у 16 ст. калоды — пераноснага неразборнага вулея. Калоду рабілі з суцэльнага кавалка дуплістага дрэва (перавжна хвоі). Найб. масіўныя калоды (акружнасцю да 2,2 м) рабілі з камля. Больш устойлівай была вышыня 1,1—1,65 м. Па спосабу ўстаноўкі калоды падзяляліся на стаякі (ставілі вертыкальна на драўляных падстаўках), і лежакі (ставілі на козлах гарызантальна ці пад вуглом 45° адносна паверхні зямлі). Канструкцыйна калоды адрозніваліся ад борці накрыўкай, якую дадаткова прыкрывалі яловай карой, лубам ці бяростай і прыцiскалі дубовым плашчаком ці пляскатым каменем. Дакладны час паяўлення калоды не вызначаны. У паэме М.*Гусоўскага* «Песня пра зубра» (1523) калоды згадваюцца як рэаліі добра вядомыя і шырока распаўсюджаныя. Відаць, першым калодным вуллем была борць, выпілаваная з паваленага навальніцай бортнага дрэва. Паводле звычаёвага права, кадыфікаванага Статутам ВКЛ 1529 і пацверджанага «Уставай на валокі» 1557, бортніку дазвалялася выпілоўваць са зламанага дрэва і вывозіць з лесу толькі борць, а верхавіну, камель з карэннямі абавязкова пакідаць. Спачатку калоды істотна не ўплывалі на традыцыйны характар П., якое заставалася выключна лясным заняткам. Калоды ўстанаўлівалі на подкурах, пазней на 2 паралельных брусах, якія ўрэзвалі ў ствол ці тоўстыя галіны дрэва. Для пад'ёму К. на дрэва выкарыстоўвалі кадол. Паступова разам з ляснымі сталі ўзнікаць сядзібныя пасекі, што было абумоўлена экалагічнымі і сац.-эканам. прычынамі: масавай высечкай лесу, распаўсюджаннем такіх лясных промыслаў, як здабыча смалы-жывіцы, выраб паташу, выпальванне драўнянага вугалю, нарыхтоўка лесаматэрыялаў, а таксама павелічэннем мядовага падатку (да 18 ст. з сядзібных пасек не спаганяўся). Пераносілі калоды на сядзібу і састарэлыя пчаляры, якія не маглі займацца лясным П. Калоды ставілі на агародных межах, у садах, каля гумнаў і інш. Пасечнае П., якое дазваляла перавозіць калоды з месца на месца і ўстанаўліваць іх на зямлі, значна аблегчыла працу, эканоміла час, пазбаўляла пчаляра залежнасці ад уладальніка лесу, забяспечвала лепшы догляд пчол і кантроль за развіццём пчалінай сям'і. У 18 ст. калоды амаль поўнасцю выцеснілі борць і сталі асн. відам пчалінага жытла. На Палессі ў канцы 18 ст. нават у цяглых сялян (яны мала займаліся П.) было ў сярэднім па 1,5 калоды на гаспадарку.

*Літ.*: Гурков В.С., Терехин С.Ф. Занятие издревле благородное. Мн., 1987; Цярохін С.Ф. Пчалярства // Беларусы. Мн., 1995. Т. 1.

***Станіслаў Цярохін.***

**Пшаздзецкі** (Przezdziecki) Аляксандр (29.7.1814, в. Чорны Востраў, Падолле, Украіна—26.12.1871), гісторык, пісьменнік. З роду *Пшаздзецкіх*. Ганаровы д-р Вроцлаўскага ун-та (1861). Вучыўся ў Крэменецкім ліцэі, у 1832—34 у Берлінскім ун-це. Служыў у Пецярбургу ў Дзярж. сакратарыяце Польскага каралеўства, да 1838 пры валагодскім губернатары, да 1842 у Вільні, збіраў статыстычныя матэрыялы. З 1843 у Варшаве, адзін з рэдактараў час. «Biblioteka Warszawska». Неаднаразова падарожнічаў па краінах Еўропы, даследаваў рукапісы Ватыканскай б-кі, шматлікіх архіваў. Аўтар прац па гісторыі Украіны, біяграфій Ядвігі, Ягайлы, прадстаўніц роду Ягелонаў. Супрацоўнічаў з час. «Athenaeum» Ю.І.Крашэўскага. Разам з М.Грабоўскім і М.*Маліноўскім* падрыхтаваў зборнікі дакументаў «Крыніцы польскай гісторыі» («Źródła do dziejów Polski», Вільня, т. 1—2, 1843—44), дзе шмат матэрыялаў па гісторыі ВКЛ. Выдаў шмат гіст. крыніц. Удзельнічаў у выданні хронік Вінцэнта Кадлубака і Я.Длугаша.

*Тв.*: Podole, Wołyń, Ukraina: Obrazy miejsc i czasów. T. 1—2. Wilnia, 1841; Życie domowe Jadwigi i Jagiełły z regestrów skarbowych z lat 1388—1417. Warszawa, 1854; Jagiellonki polskie w XVI wieku. T. 1—5. Kraków, 1868—78.

**Пшаздзецкія**, Праздзецкія, шляхецкі род герба «Рох III». Карысталіся графскім тытулам, які ў 1843 зацверджаны ў Рас. імперыі. Найб. вядомыя:

Пётр Павел (?—1660). У 1632 набыў маёнтак Шэметаўшчына ў Ашмянскім пав. Меў сыноў Мікалая Уладзіслава, Станіслава, Крыштофа, Яна і Канстанціна.

Мікалай Уладзіслаў (каля 1620 — 11.10.1683), сын Пятра Паўла. Стольнік упіцкі ў 1658—66, ашмянскі стольнік у 1666—67, харужы ў 1667—70 і маршалак з 1670, падваявода віленскі ў 1668—69, кашталян новагародскі з 1677; пасол на соймы 1665—76, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1683. Удзельнік вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.

Аляксандр (каля 1665 — каля 1734), сын Крыштофа. Мазырскі стольнік у 1691—94 і харужы ў 1694—1726, мечнік ВКЛ у 1707—09, кашталян інфлянцкі з 1726; быў дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Удзельнічаў у пасольствах да цара Пятра I (1704, 1717), у Турцыю (1714).

Антоні Тадэвуш (5.9.1718, г. Трокі — 28.3.1772), сын Аляксандра. Вял. пісар ВКЛ у 1739—50, вял. падчашы ў 1750—52, рэферэндары ў 1752—64, падканцлер з 1764; пасол на соймы 1740—64, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1739. Рэгіментар (палкоўнік) Бел. дывізіі (1764), фактычны кіраўнік Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764. У 1760 набыў маёнтак Заслаўе (раней быў у П. у заставе), тытулаваў сябе графам «на Заслаўі і Чорным Востраве» (Падольскае ваяв.). Трымаў Менскае, Пінскае і Блудзенскае старасты.

Міхал (1.5.1747, Заслаўе — 1799), сын Антонія Тадэвуша. Паручнік рэгімента гетмана Масальскага (1764), вял. пісар ВКЛ з 1777; староста пінскі ў 1772—77, блудзенскі, пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92.

Аўгуст Дамінік (4.8.1760, Заслаўе — 23.11.1782), сын Міхала. Староста менскі, пасол на сойм 1780.

Аляксандр (27.7.1814, Чорны Востраў — 26.12.1871), сын Канстанціна, унук Міхала; гл. А.*Пшаздзецкі*.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**пядзя**, адзінка даўжыні, што выкарыстоўвалася ў гандлі і будаўніцтве. Руская П. маскоўска-чарнігаўскага паходжання (малая П.) вядома з 11 ст., вызначала адлегласць паміж растапыранымі вял. і ўказальным пальцамі (19 см), а наўгародска-пскоўская (вял. П.) — паміж вял. і сярэднім пальцамі (22—23 см). У Рэчы Паспалітай П. называлі далонь, прыроджаную (9 цалей = 3/8 локця) і геаметрычную ($^1/_2$ локця). У Беларусі пасля далучэння яе да Рас. імперыі сталі больш пашыранымі рас. значэнні П.

*Літ.*: Stamm E. Miary powierzchni w dawnej Polsce. Kraków, 1936; Каменцева Е.И., Устюгов Н.В. Русская метрология. 2 изд. М., 1975.

***Яўген Анішчанка.***

**Пянткоўскі** (Pętkowski) Каспар (кастр. 1554, в. Пенткаў, Мазовія—16.2.1612), педагог, драматург. З 1574 езуіт. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, дзе ў 1591—92 выкладаў матэматыку, пасля ў Яраславе, Калішы, Познані. Для тэатра Віленскай акадэміі на пачатак школьнага года напісаў польскамоўную п'есу «Цімон Гардзілюд» (каля 1584), куды ўвайшла першая інтэрмедыя на бел. мове. Яе гал. герой, віленскі шавец, які гаворыць па-беларуску, выкрывае псеўдавучонасць і чалавеканенавісніцтва, увасобленыя ў постаці філосафа Гардзілюда. Камічны эфект ствараецца спалучэннем антычных і мясцовых элементаў. П. — аўтар «Дыялога аб міры для караля Стафана» (пастаўлены ў 1582), дзе асуджаюцца крывавыя захопніцкія войны, інтэрмеды «Лікус, Скева, Секстус» (1584). На поглядах П. адбіўся ўплыў еўрапейскага Адраджэння.

*Тв.*: У кн.: Dramaty staropolskie. T. 4. Warszawa, 1961.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 166—168.

***Адам Мальдзіс.***

**пярнач**, зброя блізкага бою, разнавіднасць булавы з навершам, падзеленым на некалькі вертыкальна размешчаных лопасцяў («пер'яў»), якія радыяльна разыходзяцца ад цэнтра. Булава блізкай формы зафіксавана на адной з мініяцюр Радзівілаўскага летапісу. Узоры з лопасцевымі навершамі паказаны на гравюры «Бітва пад Оршай» з брашуры А.Крыцкага (1515), у т.л. ў руках даводцы літвінскага атрада, а таксама на гравюры М.Цюнта, прысвечанай сустрэчы маскоўскага пасла ў Гародні ў 1567. У пісьмовых крыніцах пач. 16 ст. такую зброю ўжо не атаясамлівалі з булавамі і называлі П. У Польшчы больш пашыраны быў тэрмін «буздыган». П., знойдзены ў Хабултаве Уладзімірскага пав., цалкам стальны, даўжынёй 67,5 см. Васьмігранная рукаяць мае абмежаванае шайбамі месца для ўтрымання рукой. Наверша даўжынёй 11,8 см, якое вянчаецца гузам, мае 8 лопасцяў, забяспечаных спічастымі выступамі, што надае П. рысы гатычнага стылю. Блізкі па канструкцыі П. з 8 лопасцямі, відаць, паўн.-італьянскі, быў у Нясвіжскай збаёўні Радзівілаў. Іл. гл. ў т. 1, с. 43.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 152—153.

***Юрась Бохан.***



**Пярнач**. Канец 17 ст.

**Пясецкі** (Piasecki) Павел (17.10.1579 — 1.8.1649), польскі рэлігійны дзеяч, гісторык. Д-р абодвух правоў (1610). У 1598—1602 вучыўся ў Рыме, пасля ў Оламаўцы (Чэхія), Празе, Вене, зноў у Рыме. З 1605 канонік пазнанскі, сакратар караля Жыгімонта III. У 1613—24 канонік варшаўскі, архідыякан люблінскі, варшаўскі. З 1624 абат цыстэрцыянскага кляштара ў Магіле пад Кракавам, з 1627 біскуп камянецкі, з 1640 — холмскі, з 1644 —перамышльскі. У палітыцы паслядоўна трымаўся антыгабсбургскай пазіцыі, выступаў супраць уніятаў. У 1645 выдаў у Кракаве на лац. мове свой гал. твор «Хроніка асаблівых выпадкаў у Еўропе» («Chronica gestorum in Europa singularium»), які пры жыцці аўтара 3 разы перавыдаваўся. Большая частка кнігі прысвечана гісторыі Рэчы Паспалітай часоў панавання Жыгімонта III. П. з пазіцый шляхты крытычна ставіўся да палітыкі караля, які імкнуўся, на яго думку, да абсалютызму. «Хроніка» заснавана на працах І.*Бельскага*, Д.Салікоўскага, магчыма, на рукапісах Р.*Гейдэнштэйна*, на ўласных успамінах аўтара і сабраных ім дакументах. Кніга П. служыла крыніцай ведаў пра Рэч Паспалітую для Зах. Еўропы і хоць мела суб'ектыўны і малаарыгінальны ў пачатковых раздзелах характар, але выклікала цікаўнасць чытачоў яшчэ і ў 18—19 ст.

*Тв.*: Kronika. Kraków, 1870.

*Літ.*: Szelągowski A. Paweł Piasecki, historyk polski XVII wieku. Lwów, 1899.

***Альбіна Семянчук.***

**Пясецкія**, шляхецкі род герба «Яніна» (некаторыя прадстаўнікі роду карысталіся гербам «Забава»). Найб. вядомыя:

Якуб (? — крас. 1587), падкаморы і канюшы каронны ў 1564—74. Ажаніўся з Васілісай, дачкой ваяводы навагародскага П.Сапегі, і асеў у ВКЛ. Канюшы дворны ВКЛ у 1565—87 (з перапынкам), староста геранёнскі, трабскі, ліпнішскі, дзевянішскі.

Геранім (Яраш; ?—1630), сын Якуба. Пісар польны ВКЛ з 1611; пасол на соймы 1607 і 1628. Удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, у перагаворах пры заключэнні перамір'я 1618, у вайне з туркамі 1621.

Пётр, сын Якуба, староста больніцкі, падваявода віленскі ў 1621.

Андрэй, сын Якуба, стольнік берасцейскі ў 1632.

Павел, сын Якуба, навагародскі падсудак, падваявода ў 1633.

Геранім (? — каля 1690), сын Паўла. Слонімскі падсудак з 1650, падкаморы з 1661, маршалак з 1672. Шматразовы пасол на соймы. У 1670—78 віцэ-адміністратар Гарадзенскай эканоміі. Пасля прыняцця рашэння аб правядзенні соймаў у Гародні кіраваў рэстаўрацыяй Гарадзенскага Старога замка, яго праца адзначана спец. соймавай канстытуцыяй 1678.

Бенядзікт, сын Фларыяна Якубавіча (?), падстолі полацкі ў 1667.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**пятак**, папулярная назва манет Рэчы Паспалітай у залежнасці ад іх курсу і месца ў грашова-лікавай сістэме. 1) Паўгрош ВКЛ канца 15—1-й пал. 16 ст. Назва «П.» з'явілася ў 2-й пал. 16 ст., бо ў літ. паўгрошы лічылася 5 пенязяў. Лік 10 пенязяў на грош захоўваўся да пач. 17 ст. 2) Трохграшовік Рэчы Паспалітай канца 16—1-й пал. 17 ст. Назва «П.» у дачыненні да траякоў ужывалася ў 2-й пал. 17 ст., што зафіксавана кнігамі Магілёўскага магістрата.

*Літ.*: Колобова И.Н. О денежной терминологии белорусского рынка XVI—XVIII вв. // Славяне: адзінства і мнагастайнасць: Міжнародная канферэнцыя. 24—27 мая 1990. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Секцыя 1. Мн., 1990; Сінчук І. З гісторыі грашовага абарачэння // Спадчына, 1992. № 6; Яго ж. Денежный счет Ведомости Витебской таможенной заставы 1605 г. // Пятая Всероссийская нумизматическая конференция. Москва, 21—25 апреля 1997 г.: Тезисы докладов и сообщений. М., 1997.

***Іван Сінчук.***

**Пятроўскі** (Piotrowski) Ян (каля 1550—17.4.1591), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, аўтар дзённікаў. У 1567—88 вучыўся ў Інгальштаце (Германія), Падуі (Італія). Сакратар каралёў Жыгімонта II Аўгуста, Стафана Баторыя, Жыгімонта III Вазы; канонік пазнанскі, кракаўскі, гнезненскі, дэкан пазнанскі. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* суправаджаў Стафана Баторыя ў паходзе 1579 на Полацк, пасля пад Псковам. З 1578 пісаў свайму заступніку вял. маршалку кароннаму А.Апалінскаму падрабязныя лісты з выкладам, як у дзённіку, падзей, што адбываліся пры каралеўскім двары і ў ваенным паходзе. Лісты — каштоўная крыніца для вывучэння ходу ваенных дзеянняў і палітыкі Рэчы Паспалітай, даюць дакладную інфармацыю пра падзеі з трапнымі характарыстыкамі асоб. Захаваліся камплекты лістоў 19.5.1578—9.1.1579 (выдадзены І.Палькоўскім у 1887) і 9.4.1581—26.6.1582 (выдадзены М.*Каяловічам* у 1867 і А.Чучынскім у 1894).

*Тв.*: Рус. пер. — Дневник последнего похода Стефана Батория на Россию. СПб., 1867; Sprawy wojenne króla Stefana Batorego. Kraków, 1887; Dziennik wyprawy Stefana Batorego pod Psków. Kraków, 1894.

**пяцігорцы**, від сярэдняй кавалерыі войска ВКЛ у 16—18 ст. Першыя роты П. з'явіліся ў 1560-я г., калі ў ВКЛ пачалі служыць кабардзінцы — выхадцы з Паўн. Каўказа (Пяцігор'я, Бештаў — вобласці паміж р. Церак і Кубань). Першапачаткова складаліся з людзей кабардзінскага і татарскага паходжання, пасля з мясц. ураджэнцаў. Узбраеннем былі блізкія да *казакоў*, мелі кароткія дзіды, шаблі, лукі, пісталеты, ручніцы, шчыты і кольчатыя панцыры ў камплекце з міскападобным шлемам-місюркай. Як від кавалерыі П. мелі універсальны харктар. Пры Стафане Баторыю [1576—86] атрады П. і казакоў складалі каля 10% конніцы. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* 780 П. змагаліся пад Смаленскам.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Сагановіч Г.М. Войска вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994.




Да арт. **Пяцігорцы**. Афіцэр харугвы вялікай булавы 2-й брыгады нацыянальнай кавалерыі.

**пячатка**, прадмет з выразанымі знакамі і літарамі для адбітка іх на гліне, воску, паперы і інш., а таксама іх адбіткі на дакументах для надання ім сапраўднасці і юрыдычнай сілы. У ВКЛ выкарыстоўваліся металічныя (13—15 ст.), васковыя і воскамастычныя (14—17 ст.), сургучныя (канец 17—18 ст.) і курадымныя П. (18 ст.). Па тыпах П. падзяляюць на прывесістыя і прыціскныя. У легендах (надпісах) прымяняліся кірылічны, лацінскі і інш. алфавіты. Формы і памеры П. былі вельмі разнастайныя. Дзярж. і карпаратыўныя ўстановы карысталіся толькі круглымі П., духавенства — круглымі і авальнымі, прадстаўнікі ўрада і прыватныя асобы — таксама квадратнымі, васьмівугольнымі і інш. Шырокае распаўсюджанне атрымалі пячаткі-пярсцёнкі — сыгнеты. Было распрацавана сігілічнае заканадаўства, якое абумоўлівала карыстанне П., што сведчыць пра ўзмацненне патоку дакументацыі, ускладненне структуры грамадскіх надбудоў. Часам найб. шырокага карыстання П. прадстаўнікамі розных колаў грамадства было 16 ст. Тэрмін ужывання матрыцы мог быць вельмі працяглым (гарадская П. Віцебска, зробленая ў 1559, прыкладалася да дакументаў амаль 250

гадоў, П. Менска выкарыстоўвалася ў 1591—1692). П. канцылярыі ВКЛ (вялікая і малая) выразаліся кожны раз новыя пры змене вял. князя і караля. Вял. П. прыкладалася да дакументаў агульнадзярж. значэння і тых, што тычыліся адносін з інш. краінамі, малая ўжывалася ў дакументацыі ўнутрыдзярж. карыстання (напрыклад, пры зацвярджэнні прывілеяў гарадам на магдэбургскае права).

У 18 ст. сфера ўжытку П. звузілася, што звязана з паглыбленнем класавай дыферэнцыяцыі і агульным ростам залежнасці непрывілеяванага насельніцтва ад свецкіх і духоўных феадалаў. Зменшылася колькасць асоб, якія карысталіся ўласным кляйном (гербападобным знакам). Герб стаў абавязковай адзнакай прыналежнасці да прывілеяванага стану. Астатнія працягвалі карыстацца, адпаведна з традыцыяй, бортнымі клейнамі і інш. знакамі (знаменамі), якія часцей фіксуюцца на помніках матэрыяльнай культуры і ў пісьмовай дакументацыі, чым у сфрагістычным матэрыяле. Герб багата аздабляўся сцягамі, харугвамі, вайсковым рыштункам і інш., яго малюнак удасканальваецца і набывае завершанасць кампазіцыйнай пабудовы. Гэты перыяд — апагей развіцця мастацтва гербавых упрыгожанняў. Магнаты мелі ва ўжытку адначасова некалькі П.: да юрыдычных дакументаў (кансенсаў, кантрактаў і інш.) прыкладалася вял. П., да лістоў, загадаў — малая, сыгнет. Менш заможныя асобы карысталіся толькі апошнім відам П. З'явіліся агульныя рысы ў выкананні П. розных дзярж. устаноў, пры гэтым пераважала авальная форма. На П. земскіх судоў ніжэй дзярж. герба з'явіўся герб пісара, у якога П. зберагалася і які яе прыкладаў. Надпісы рабіліся на польскай і лацінскай мовах, прычым першая атрымала больш шырокае распаўсюджанне. Кірыліца была амаль поўнасцю выціснена з ужытку і засталася толькі на пячатках правасл. і часткова уніяцкіх устаноў.

Сігілічнае заканадаўства ВКЛ, што рэгулявала парадак афармлення і сведчання сапраўднасці дакументаў, адказнасць за іх падробку і фальсіфікацыю, было кадыфікавана Статутамі ВКЛ. Статут ВКЛ 1529 меў толькі 2 артыкулы, якія прадугледжвалі абавязковасць выкарыстання П. Статут ВКЛ 1566 меў ужо 10 артыкулаў, што датычылі П., і статутавую папраўку, прынятую соймам у 1578. У статуце ВКЛ 1588 ужо 28 артыкулаў аб выкарыстанні П. Аульным для ўсіх Статутаў было вызначэнне адказнасці за фальсіфікацыю П. і падробку подпісаў, а таксама за збор і захоўванне адбіткаў П. Даецца пералік варыянтаў магчымых падробак дакументаў для асабістага «пожитку себе и ку школе стороны своее противное». Статут ВКЛ 1588 вызначаў карыстанне павятовай П. з дзярж. гербам — «Пагоняй» і надпісам «имя того повету в коло» і агаворваў парадак яе захоўвання. Павятовая П. павінна была зберагацца ў земскага пісара, які прыкладаў яе толькі да *позваў*. Інш. дакументы выдаваліся ў гродскіх або земскіх судах і сведчыліся П. намеснікаў, падстарастаў і суддзяў. Падобны парадак легітымізацыі дакументаў прадугледжваўся і ў канцылярыях земскіх судоў. Некалькі іншы ён быў у палюбоўных судах, дзе пад выракам ставіліся П. суддзяў ад абодвух бакоў. Вял. значэнне надавалася П. сведкаў (пячатараў), якія прысутнічалі пры заключэнні розных прававых актаў (запісы на пасаг, продаж маёнткаў і інш.), аглядах і інш. П. сведкаў былі абавязковымі на дакументах шляхты і простых людзей. Пячатарамі павінны былі быць «люди достойные шляхтичи веры годные». Засведчаныя П. дакументы заносіліся ў актавыя кнігі гродскіх або земскіх судоў, што надавала ім права «вечнасці». Калі ў выніку пажару ці інш. нягоды дакументы гінулі, сведкі пад прысягай маглі пацвердзіць факт іх існавання і змест. У выпадку смерці пячатараў існец мог здзейсніць сваё права прысягай у судзе. Працэс афармлення *тастаментаў* (завяшчанняў) таксама абумоўліваў прыкладанне П. сведкамі. Пры гэтай працэдуры павінны былі прысутнічаць прадстаўнікі гродскага або земскага суда, а калі гэта па нейкіх прычынах было немагчыма, дакументы сведчылі аселыя шляхціцы хрысціянскага веравызнання. Статут ВКЛ 1588 вызначыў асоб, якія не дапускаліся ў якасці сведкаў тастаментаў. Распрацаваныя складальнікамі Статута ВКЛ 1588 і замацаваныя ім прынцыпы сігілічнага заканадаўства заставаліся без істотных змен і дадаткаў да 1840-х г. Толькі некат. моманты ўдакладнены больш познімі соймавымі пастановамі, канстытуцыямі. Яны датычылі пераважна дзейнасці вярхоўнай улады.

*Літ.*: Jodkowski J. Pieczęcie polskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Wiadomości Numizmatyczno-Archelogiczne. 1910. T. 6; Semkowicz W. Sfragistyka Witolda // Там жа. 1930. T. 13; Gumowski M. Pieczęcie książąt litewskich // Ateneum Wileńskie. 1930. Z. 3—4; Gumowski M., Haisig M., Mikulski S. Sfragistyka. Warszawa, 1960; Хорошкевич А.Л. Печати полоцких грамот XIV—XV вв. // Вспомогательные исторические дисциплины. Л., 1972. Т. 4; Яе ж. Полацкія пячаткі XV ст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1; Міралюбаў Б.В. Пінская віслая пячатка // Там жа. 1975. № 4; Гавриленко В.О. Українська сфагістика. Київ, 1977; Лазіцкі А. Помнік «рамяства залатарскага» // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 4; Kuczyński S.K. Polonika heraldyczna i sfragistyczna w zbiorach leningradzkich // Archeon. 1978. T. 66; Добровольская М.А. Личные печатки рода Огиньских в Эрмитаже // Тр. Гос. Эрмитажа. Л., 1981. Т. 21; Вярыга-Дароўскі А. Рускія пячаткавыя знакі: Геральдыч. тлумачэнні: Пер. з пол. // Спадчына. 1992. № 5; Цітоў А. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфагістыкі. Мн., 1993; Яго ж. Метадычныя парады па апісанню помнікаў сфагістыкі для архіваў і музеяў. Мн., 1997; Яго ж. Геральдыка беларускіх местаў (XVI—пачатак XX ст.). Мн., 1998; Яго ж. Сфрагістыка і геральдыка Беларусі: (Іл. курс лекцый). Мн., 1999; Rimša E. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes miestu antspandai. Vilnius, 1999.

***Анатоль Цітоў.***





**Рабікаўскас** (Rabikauskas) Паўлюс (16.8.1920, мяст. Гудзюнай Кядайняйскага р-на, Літва — 7.3.1998), літоўскі гісторык. Д-р (1955), праф. звычайны (1961). Правадзейны чл. Літоўскай каталіцкай АН (1961), ганаровы д-р Папскай тэалагічнай акадэміі ў Кракаве (1991) і Вільнюскага ун-та (1992). З 1938 чл. ордэна езуітаў. Вучыўся ў Каўнасе, Германіі (Пулах, Марыя-Экк, Бюрэн), Бельгіі (Вепіён), Італіі (Грыгарыянскі ун-т у Рыме), Францыі (Нац. школа хартый у Парыжы). З 1955 выкладаў у Грыгарыянскім ун-це, у 1970—73 і 1985—91 дэкан факультэта гісторыі царквы, у 1975—78 прарэктар. З 1976 рэдактар выдання «Archivum Historiae Pontificiae». Даследаваў папскую дыпламатыку, гісторыю ордэна езуітаў у ВКЛ, заснавання Віленскай акадэміі. Выдаў справаздачы біскупаў ВКЛ 17—18 ст., што дасылаліся ў Рым («Relationes status diocesium in Magno Ducatu Lituaniae», т. 1—2, Рым, 1971—78).

*Тв.*: The Foundation of the University of Vilnius (1579): Royal and Papal Grants. Roma, 1979; Założenie Uniwersytetu Wileńskiego // Lithuania. 1994. № 4; Krikščioniškoji Lietuva: istorija, hagiografija, šaltiniotyra. Vilnius, 2002; Vilniaus akademija ir Lietuvos jėzuitai. Vilnius, 2002.

**«Равіч»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася больш за 250 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Ажароўскія, Нямцэвічы, Прушынскія, Ромеры, Саламярэцкія. У залатым полі чорны мядзведзь, на ім сядзіць жанчына ў чырвонай сукенцы з распушчанымі валасамі ў залатой кароне; клейнод — над прылбіцай з каронай паміж аленевымі рагамі палова чорнага мядзведзя з чырвонай ружай у лапе. Вядомы з пач. 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**Рагаля** Самуіл [?—14(24).1.1644], друкар *Віленскай брацкай друкарні*, арганізатар першай друкарні ў Малдове. У 1628 ездзіў у Маскву з «изустным тайным словом» ад *Віленскага Святадухаўскага манастыра*. У 1636 сярод асоб, якія падпісалі адозву *Афанасія Берасцейскага* ў абарону праваслаўя, названы «Самоил Рогаля, друкар братства виленского». Пазней жыў у Львове, у 1643 пасланы мітрапалітам Пятром Магілай да малдаўскага гаспадара *Васіля* Лупу ў Ясы арганізаваць друкарню, у якой у тым жа годзе выдадзена першая малдаўская друкаваная кн. «Евангелле вучыцельнае» («Картя дэ ынвенцатуре»). Паехаўшы «для потреб друкарских на ярмарок лвовски», «отец Самуил, шо з Вилна немец, друкар», памёр у Львове.

*Літ.*: Исаевич Я.Д. Преемники первопечатника. М., 1981.

***Алесь Белы.***

**«Рагаля»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася больш за 150 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Ажахоўскія, Завадскія, Іваноўскія, Красіцкія. Шчыт герба падзелены вертыкальна папалам, у 1-м, чырвоным полі сярэбраны аленевы рог з 4 адросткамі, у 2-м, сярэбраным полі чырвоны буйвалавы рог; клейнод — над прылбіцай з каронай такія ж самыя рогі. Вядомы з сярэдзіны 13 ст.



Герб **«Равіч»**.



Герб **«Рагаля»**.

**Рагаўскене** (Ragauskienė) Раймонда (н. 23.8.1968, г. Панявежыс, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных на-

вук (2000). Скончыла Вільнюскі педагагічны ін-т (1991). З 1994 працавала ў Ін-це гісторыі Літвы, з 2000 у Вільнюскім педагагічным ун-це, з 2002 дацэнт кафедры гісторыі Літвы. Даследуе сац. гісторыю ВКЛ 16—18 ст., праблемы лакальнай гісторыі. Аўтар манаграфій: «Карта Біржанскага княства Юзафа Нарановіча-Наронскага 1645 г.: Гісторыя і картаграфія ўладання Радзівілаў» («1645 m. Juzefo Naronovičiaus-Naronskio Biržų kunigaikštystės žemėlapis: Radvilų valdos istorija ir kartografija», Вільнюс, 1997, з Д.Карвялісам), «Барбара Радзівіл» («Barbora Radvilaitė», Вільнюс, 1999), «Лісты Барбары Радзівіл Жыгімонту Аўгусту і іншым: Даследаванне жаночай карэспандэнцыі ВКЛ XVI ст.» («Barboros Radvilaitės laiškai Žygimantui Augustui ir kitiems: Studija apie XVI a. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės moterų korespondenciją», Вільнюс, 2001, з А.Рагаўскасам), «Канцлер Вялікага княства Літоўскага Мікалай Радзівіл Руды (каля 1515—1584 г.» [«Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (apie 1515—1584 m.)», Вільнюс, 2002], «Мінулае Каралеўскіх Бірштанаў: Гістарычнае развіццё да XIX ст.» («Karališkojo Birštono praeitis: Istorinė raida iki XIX a.», Вільнюс, 2004). Удзельнічала ў публікацыі кнігі Метрыкі ВКЛ № 51 (2000).

*Тв.*: Радзивилл Рыжий и Радзивилл Сиротка: преемственность клиентуры в Великом Княжестве Литовском в XVI в. // На шляхах да узаемаразумення. Мн, 2000; Kobieca korespondencja w Wielkim Księstwie Litewskim w pierwszej połowie XVI wieku: Problemy. Forma. Treść // Biuletyn Historii Pogranicza. 2002. № 3; The Ruler and His Noble Subject: the Communication Model of the Correspondence between Sigismund Augustus and Mikalojus Radvila the Red, 1546—1572 // Lithuanian Historical Studies. 1998. Vol. 3; The Households of XVI Century Lithuanian Great Noblewomen // Там жа. 2003. Vol. 8.

**Рагачоў** (цяпер горад, цэнтр Рагачоўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Рэчыцкім пав., на правым беразе Дняпра. Упершыню ўпамінаецца пад 1142 (уваходзіў, відаць, у Тураўскае княства). З канца 13 ст. ў складзе ВКЛ. У 14—18 ст. цэнтр *Рагачоўскай воласці*, кіраваўся старастам. З канца 15 ст. належаў князям *Яраславічам*. У 1509 кн. Ф.І.Яраславіч і яго жонка Алена завяшчалі Р. (у ліку інш. гарадоў) вял. кн. Жыгімонту І Старому. У 1548 тут існавала царква св. Кузьмы і Дзям'яна. У 16 ст. на месцы стараж. гарадзішча пабудаваны *Рагачоўскі замак*, які меў стратэгічнае значэнне і ў 17 ст. ўваходзіў у сістэму пагранічнай абароны на Дняпры (спалены ў 1654, канчаткова знішчаны да 1780). У часы вайны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай 1534—37 і вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 горад некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. У канцы 16 ст. ў ваколіцах Р. дзейнічалі казацка-сял. атрады С.Налівайкі і Дубіны (гл. *Налівайкі паўстанне 1595—96*). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**Рагачоўская воласць**, Рагачоўскае староства, буйны дзяржаўны маёнтак у ВКЛ у 14—18 ст. У канцы 14 ст. належала кн. Ю.Талочку, пазней — вял. кн. Вітаўту, які ў 1397 вылучыў з Р.в. Бярэзінскую зямлю і перадаў у склад сумежнага маёнтка Стрэшын, які належаў Віленскаму біскупству. У 1440-я г. ад Р.в. аддзелены маёнткі Плёсавічы і Ціхінічы, дадзеныя адпаведна панам Доўкшу і Альгішу. У 1456 воласць падаравана выхадцу з Масквы кн. І.В.Яраславічу, потым яго сыну Ф.І.Яраславічу, які ў 1509 завяшчаў яе вял. кн. Жыгімонту І Старому. Апошні ўступіў у валоданне Р.в. ў 1519 і падараваў яе сваёй жонцы Боне. Да пач. 1556 Р.в. кіравалі намеснікі Боны, сярод якіх Іван Міхайлавіч (1534—39), Міхаіл Якубавіч (1545), П.Папялінскі (1549—52), Б.Далмат (1552), М.Вайцаховіч (1555). З 1556 — дзярж. маёнтак (староства), паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 уключаны ў Рэчыцкі пав. У 1563 тром полацкім шляхціцам замест занятых рас. войскамі маёнткаў часова аддадзены са складу Р.в. сёлы Звонец і Хлобін (сучасны Жлобін?). Відаць, у 1550—60-я г. з яе вылучаны і інш. маёнткі. Паводле люстрацыі 1765, у складзе староства заставаліся мяст. Рагачоў і 27 вёсак (разам больш за 700 двароў), яно падзялялася на Задняпроўскае, Задруцкае і Рагачоўскае войтаўствы. На пасадзе рагачоўскіх старастаў вядомы: Г.Бака (1556), кн. Б.В.Саламярэцкі (1562—63), Р.Г.Валовіч (1593—1620), кн. А.Агінскі (1633—44), Я.Юдзіцкі (1644—49), К.Л.Сапега (1649), Л.Пацей (з 1677), яго сын К.Пацей (з 1695) і ўнук А.Пацей (з 1724), сыны апошняга Людвіг (з 1758) і Леанард (з 1771). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) тэрыторыя Р.в. на У ад р. Друць і Дняпро адышла да Рас. імперыі, рэшта была далучана да яе ў 1793.

*Вячаслаў Насевіч.*



Аўтар В.Л.Насевіч

**Рагачоўскі замак**. Існаваў у г. *Рагачоў* у 16—2-й пал. 18 ст. Пабудаваны з дрэва на месцы гарадзішча 11 ст., на высокім мысе ў сутоках рэк Дняпра і Друці. У 1750—60-я г. замак быў абнесены земляным валам (вал існаваў з 11 ст., але ў гэты перыяд быў падсыпаны) з ровам, абарончыя сцены мелі выгляд астрога. У цэнтры дзядзінца стаяў палац — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з мезанінам, накрыты гонтавым дахам. Уключаў прыхожую, сталовую, 5 жылых памяшканняў, алькеж, камору, аптэчку, кухню і інш., у мезаніне была зала. Гал. ўваход афармлены ганкам на слупах, на процілеглым фасадзе — галерэя. Каля палаца размяшчаліся флігель (8 жылых памяшканняў, гардэроб, кухня), царква, дом аканома, гасп. пабудовы. Перад 2-яруснай брамай-вежай (у 1-м ярусе былі абапал праезда 2 каморы, у 2-м — зала, абкружаная галерэяй і накрытая гонтавым дахам) цераз роў быў мост на ізбіцах. Да пач. 1770-х г. замак прыйшоў у заняпад.

*Юрый Якімовіч.*

**Рагоза** Міхаіл (каля 1540—паміж 18.6 і 15.8.1599), дзеяч праваслаўнай, потым уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Са шляхецкага роду герба «Рагоза» Менскага ваяв. У 1576 пісар валынскага ваяводы кн. Богуша Карэцкага. Пасля прыняцця манаства архімандрыт Менскага Узнясенскага (з 1579), Слуцкага Траецкага (з 1582), Морацкага манастыроў. З 1589 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Праводзіў рэформы правасл. царквы з мэтай павысіць аўтарытэт і адукацыю духавенства і паменшыць умяшанне свецкіх улад у царк. справы. З 1590 увёў практыку штогадовых сабораў з удзелам прадстаўнікоў духавенства, шляхты, брацтваў. Пры Р. было забаронена свецкім асобам кіраваць манастырамі, усталявана новая працэдура прызначэння епіскапаў і мітрапаліта: кароль зацвярджаў адну з 4 кандыдатур, вылучаных на такім штогадовым саборы. Сабор 1594 падпарадкаваў брацтвы царк. іерархам, што ўзмацніла супярэчнасці паміж імі (напр., у 1595 Р. забараніў выступаць з казаннямі прапаведніку віленскага брацтва С.*Зізанію*). З 1594 Р. далучыўся да падрыхтоўкі злучэння правасл. царквы з рымска-каталіцкай. Пад яго старшынствам царк. сабор у Берасці абвясціў *Берасцейскую унію 1596* і зацвердзіў яе ўмовы. Р. захаваў у новаўтворанай уніяцкай царкве тытул мітрапаліта. Правасл. сабор, які адбываўся у Берасці ў 1596 адначасова з уніяцкім, абвясціў аб пазбаўленні Р. сана, аднак гэта і інш. падобныя захады правасл. духавенства не мелі вынікаў. Змагаўся з апанентамі пераважна адм. сродкамі, карыстаўся ў пашырэнні уніі падтрымкай каралеўскай улады.

*Літ.*: Акты Западной России. Т. 4. СПб., 1851; Коялович М.О. Литовская церковная уния. Т. 1—2. СПб., 1859—61; Жукович П. Соймовая борьба православного западно-русского дворянства с церковной унией. Вып. 1. СПб., 1901; Likowski E. Unia Brzeska. 2 wyd. Warszawa, 1907; Historia Kościoła w Polsce. T. 1, cz. 2. Poznań; Warszawa, 1974; Макарий. История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996; Уния в документах. Мн., 1997.

***Сяргей Казуля.***



Міхаіл **Рагоза**.

**Рагоўскі** Казімір (9.6.1728, Беларусь—15.6.1810), тэолаг, філосаф, педагог. Вучыўся ў Слонімскім і Полацкім езуіцкіх калегіумах, Віленскай акадэміі. У 1745 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў, з 1759 святар. Выкладаў у Нясвіжы (1750—55), у 1760—61 прапаведнік у Слоніме, потым выкладаў філасофію ў Крожах (1763—64), рыторыку, філасофію і маральную тэалогію ў Вільні (1766—73). Пасля скасавання ордэна езуітаў застаўся у Віленскай акадэміі як прафесар філасофіі, красамоўства, лацінскай і грэчаскай моў (да 1804). Выдаў зборнік лац. і грэчаскіх афарызмаў навучальнага характару «Gnomae orationis gemmae sive sententiae variae» (Вільня, 1792), прамовы, пахавальныя вершы (у т.л. элегію на смерць падканцлера ВКЛ М.Сапегі), тэзісы па філасофіі.

**рада**, орган мясцовага самакіравання ў гарадах з *магдэбургскім правам*, гл. ў арт. *Магістрат*.

**Рада Вялікага княства Літоўскага**, паны-рада, вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў ВКЛ у 15—1-й пал. 16 ст. У Раду ўваходзілі вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы (*маршалак, гетман, канцлер, падскарбі, ваяводы, кашталяны*, некаторыя *старасты* і інш.), каталіцкія біскупы, найбуйнейшыя феадалы. Узнікла як дапаможны орган пры вял. князю, у 15 ст. набыла большую самастойнасць. Была пастаянна дзеючым выканаўча-распарадчым, заканадаўчым, кантралюючым і судовым органам. Да яе кампетэнцыі належалі: выбранне вял. князя, абарона дзяржавы, міжнар. справы, выданне законаў, разгляд найважнейшых судовых спраў. Для вырашэння гэтых пытанняў рада збіралася ў поўным складзе ці выносіла іх на разгляд *сойма*. У сваёй дзейнасці вымушана была ўлічваць унутр. і знешняе паліт. становішча дзяржавы. Гэта вымушала яе дзейнічаць з пэўнай асцярогай, даволі часта склікаць агульнадзярж. соймы, каб заручыцца падтрымкай усёй шляхты. Найважнейшыя дзярж. справы Рада вырашала сумесна з вял. князем, у час яго адсутнасці, што здаралася даволі часта, — самастойна. Прававое становішча Рады замацавана ў прывілеях 1492 і 1506, у Статуце ВКЛ 1588 яе паўнамоцтвы і парадак іх ажыццяўлення не атрымалі дастатковага замацавання і вызначаліся звычаямі. Штодзённыя справы вырашалі пераважна старэйшыя радныя паны: віленскія біскуп, ваявода і кашталян, троцкія ваявода і кашталян, а таксама службовыя асобы цэнтр. кіраўніцтва (маршалак земскі, гетман найвышэйшы, канцлер, падскарбі).

*Літ.*: Малиновский И. Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Ч. 2. Рада Великого Княжества Литовского. Вып. 2 (1492—1569). Томск, 1912.

***Язэп Юхо.***

**Рада Шведскай Літвы**, надзвычайны прадстаўнічы орган шляхты ВКЛ у 1655—56, які з'явіўся ў выніку *Кейданскай уніі 1655* паміж Швецыяй і ВКЛ. Акт, прыняты ў Кейданах 23.10.1655, абвяшчаў пра стварэнне пад кіраўніцтвам легата шведскага караля ў ВКЛ Бенгта Шутэ прадстаўнічай рады ад жыхароў ВКЛ. У склад Р.Ш.Л. былі абраны 1 прадстаўнік ад духавенства і па 3 шляхціцы ад паветаў, што апынуліся ў 1655 пад кантролем шведскай адміністрацыі (Жамойці, Браслаўскага, Вількамірскага, Ковенскага і Упіцкага пав.). Рада стваралася як надзвычайны і часовы орган на час вайны і павінна была разам з прадстаўнікамі шведскай цывільнай адміністрацыі вырашаць адм. пытанні (на падставе Статута ВКЛ 1588). Пастанову пра яе стварэнне зацвердзілі сваімі подпісамі каля 450 шляхціцаў ВКЛ, сярод іх не было ніводнага сенатара, біскупа або магната ВКЛ. Падчас заключэння Кейданскай уніі ўзніклі сур'ёзныя супярэчнасці паміж Я.*Радзівілам* і шляхтай. Частка шляхты была незадаволеная тым высокім статусам, які заняў у час перагавораў Радзівіл. Па яго пра-



панове прадстаўнічым органам Шведскай Літвы мусіла стаць рада паноў — урад магнатаў ВКЛ. Катэгарычна супраць гэтай прапановы выступіла шляхта Жамойці. Яе падтрымаў Шутэ. У выніку Р.Ш.Л. прадстаўляла перш за ўсё інтарэсы шляхты, а не магнатаў ВКЛ. Аднак Радзівіл і ў Радзе захаваў свой уплыў. Большасць яе членаў былі пратэстанты (10 з 16), прадстаўнікі сем'яў, цесна звязаных з біржанска-слуцкай галіной Радзівілаў. Такім чынам, з 16 членаў Р.Ш.Л. як мінімум 10 былі сябрамі пратэстанцкай партыі Радзівілаў. 1-е пасяджэнне адбылося пад кіраўніцтвам Шутэ 27—28.10.1655 у Жагарах. Дэпутаты пагадзіліся выплаціць 110 тыс. злотых падаткаў новаму гаспадару краіны — вял. князю літоўскаму Карлу Вазе. У сак. 1656 генеральны намеснік шведскага караля М.Г.*Дэлягардзі* выдаў універсал пра скліканне Рады 4.5.1656 у Біржах. Аднак дзейнасць Р.Ш.Л. была хутка паралізавана антышведскім паўстаннем на Жамойці (крас.—май 1656). 31.4.1656 члены Рады сабраліся ў Біржах, дзе безвынікова чакалі Дэлягардзі і Шутэ, а пасля раз'ехаліся. Большасць дэпутатаў падтрымала паўстанцаў, частка пачала шукаць паліт. кантакты з Расіяй, некаторыя засталіся вернымі Швецыі. Факт стварэння Р.Ш.Л. засведчыў, што Кейданская унія была не змовай Радзівілаў, а мела больш шырокі сац. і паліт. грунт.

*Літ.*: Šapoka A. 1655 metų Kėdainių sutartis arba švedai Lietuvoje 1655—1656 metais. Vilnius, 1990; Kotljarchuk A. The Pro-Swedish Advisory Council of the Grand Duchy of Lithuania in 1655—1656: The Origin, Structure and Fate of Members // Faworyci i opozycjoniści: Król a elity polityczne w Rzeczypospolitej XV—XVII wieku. Kraków, 2005.

***Андрэй Катлярчук.***

**Радамльскі замак.** Існаваў у 12—17 ст. у мяст. Радамль Мсціслаўскага ваяв. (паміж сучаснымі вёскамі Радамля і Аляксандраўка Чавускага р-на). Замчышча сярэдневяковай Радамлі займала гарадзішча 12—13 ст., размешчанае на мысе высокага левага берага р. Радуч, прытока Проні. Пляцоўка гарадзішча авальнай формы (53 х 40 м) з Пн была ахавана грэбенепадобным валам вышынёй каля 4,7 м і шырынёй да 8 м у аснове. Ранняе гарадзішча па ўсім перыметры было абнесена валам, які цяпер знівеліраваны, акрамя паўн. ўчастка. Паўднёвы, больш нізкі край замкавай пляцоўкі, узвышаецца над далінай Радучы на 16 м, паўн.-ўсходні — больш як на 18 м. Ад берагавога плато замчышча было аддзелена ровам глыбінёй 10 м і шырынёй 40 м. У замку было не менш як 4 вежы: уязная вежа-брама, баявая вежа на грэбенепадобным вале з Пн, 2 вежы размяшчаліся па перыметры сцен. Праз невял. «брамку-фортку» быў выхад з замка да ракі. Археал. даследаванні ў Радамлі сведчаць, што ў 14—17 ст. драўляныя абарончыя сцены ставіліся тут у выглядзе вастракола і традыцыйных гародняў, абмазаных глінай. Яны знаходзіліся на вале, які неаднаразова падсыпаўся. У паўднёвай, найб. ахаванай частцы Р.з. быў калодзеж. Вядаць, з 12 ст. Радамля ўваходзіла ў Мсціслаўскае княства. Пасля ўключэння гэтых зямель у ВКЛ яна знаходзілася ў складзе велікакняжацкага дамена пад кіраваннем намесніка. 12.9.1527 замак «з дворы и бояры, и их именьи, и з селы» былі падараваны вял. кн. Жыгімонтам І Старым кн. М.І.Заслаўскаму. Апошні ў 1528 па патрабаванні вял. князя перадаў Радамлю сваймy сыну Фёдару, які перайшоў на службу да маскоўскага князя. З 1528 Радамля зноў велікакняжацкае ўладанне. У 1535 у час аблогі Р.з. моцна пацярпеў. Вял. князь у пісьме панам-радзе ВКЛ звяртаў увагу на неабходнасць тэрміновага «отправеня замку... Радомля по добыванию Московского о опатрене спижею и учинене подможеня боярам». Радамльскія пушкары за сваю службу атрымлівалі зямельныя надзелы, што рэгулярна пацвярджалася велікакняжацкімі граматамі. У арсенале Р.з. захоўвалася агнястрэльная зброя, якую цэнтралізавана пастаўлялі з «пушкарского Виленского двора». У 1552—65 для пастаяннага гарнізона сюды прывозіліся гакаўніцы, ручніцы, розная амуніцыя. Мясц. шляхта прасіла ў 1569 на Віленскім сойме вял. князя, каб ён «Радомлянский замок оправить або его знову будовать расказать рачил». У 1539—1770 Радамля — цэнтр нягродавага старасты, куды акрамя замка і «места» Радамля ўваходзілі вёскі Расна, Заполле, Жаліўе, Усполле, Параднін. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у Радамлі фарміраваўся Бел. казацкі полк К.*Паклонскага*, пазней размяшчаліся часці казакоў Нежынскага палка. Важнай ролі ў вайне замак не адыгрываў і пасля 17 ст. ў гіст. крыніцах не ўпамінаецца.

**Радамская канстытуцыя 1505**, канстытуцыя «Нігіль нові» (лац. nihili novi «нічога новага»), заканадаўчы акт Польшчы, прыняты соймам у г. Радам 30.5.1505. Забараняла каралю выдаваць законы без агульнай згоды палат сойма — Сената і Пасольскай Ізбы. Скасавала *Мельніцкі прывілей 1501*, якім кароль Аляксандр устанавіў кантроль Сената (г.зн. магнатаў) над каралеўскай уладай, і фактычна аддала ўладу Пасольскай Ізбе. Канстытуцыя зацвердзіла ўсе ранейшыя саслоўныя прывілеі і правы шляхты і гэтым садзейнічала набыццю шляхтай статуса пануючага саслоўя ў дзяржаве. Пастанова сойма 1538 дадаткова забараняла каралю выдаваць законы без агульнай згоды сойма. Аднак пры гэтым не быў праведзены дакладны падзел кампетэнцыі караля, Сената і Пасольскай Ізбы, што ў спалучэнні з прынцыпам аднагалосся (*ліберум вета*) стала адной з прычын зрывання соймаў. Палажэнні Р.к. ляглі ў аснову прававых норм Рэчы Паспалітай.

***Валерый Пазднякоў.***

**Радамская канфедэрацыя**, саюз магнацка-шляхецкіх колаў Рэчы Паспалітай, утвораны ў 1767 супраць спроб караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і яго акружэння (група Чартарыйскіх) узмацніць цэнтр. ўладу шляхам памяркоўных рэформ. Вытокі Р.к. ў рашэннях сойма 1766, які адхіліў планы рэформ, у т.л. аб прадастаўленні паліт. і грамадзянскіх правоў дысідэнтам (некатолікам). Гэта стала зачэпкай для ўмяшання Расіі і Прусіі, якія ў сак. 1767 стварылі дысідэнцкія Таруньскую канфедэрацыю і *Слуцкую канфедэрацыю*. Аднак яны былі малалікія і неўплывовыя. У адказ шырокія колы каталіцкай шляхты і духавенства сталі злучацца ў мясц. канфедэрацыі для забеспячэння панавання каталіцкай рэлігіі, захавання рэспубліканскіх свабод з правам вольнага абрання караля без саюзу з Расіяй і каб дэтранізаваць навязанага звонку Панятоўскага. У ВКЛ каталіцкія канфедэраты 3.6.1767 абралі маршалкам быстрыц-

кага старасту С.Бжастоўскага, у Кароне Польскай — віленскага ваяводу К.С.Радзівіла Пане Каханку, якім апекавалася Прусія. Гэта пагражала Расіі стратай выключнага ўплыву ў краіне. Каб пашырыць кола сваіх прыхільнікаў, яна вырашыла заключыць саюз з каталіцкімі канфедэрацыямі. Радзівілу вярнулі канфіскаваныя ў 1764—66 маёнткі, і ён стаў маршалкам генеральнай канфедэрацыі ВКЛ, якая аб'яднала дысідэнтаў і католікаў. 23.6.1767 у г. Радам (Люблінскае ваяв., Польшча) з'ехаліся 178 паслоў ад кароннай і літ. канфедэрацый, якія 14.8.1767 абралі Радзівіла маршалкам Р.к. — аб'яднанай канфедэрацыі Рэчы Паспалітай. Аднак рас. пасол у Варшаве М.В.Рапнін патрабаваў паставіць на чале канфедэрацыі караля, узаконіць раўнапраўе дысідэнтаў і пакінуць існуючы дзярж. лад пад апекай Расіі. Пад пагрозай чарговага гвалту радамчане адобрылі гэтыя патрабаванні, якія ўвайшлі ў праекты «вечнага» дагавору з Расіяй і акта *Кардынальных правоў*. Яны былі ўзаконены скліканым 5.11.1767 надзвычайным соймам Рэчы Паспалітай пад пратэктаратам Расіі. Усе канфедэрацыі былі распушчаны. Гэтыя падзеі выклікалі стварэнне ў 1768 *Барскай канфедэрацыі* і грамадз. вайну ў краіне.

*Літ.*: Szujski J. Dzieje Polski podług ostatnich badań. T. 4. Lwów, 1866; Zelińska Z. Ostatnie lata Pierwszej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1886; Грабеньский В. История польского народа: Пер. с пол. СПб., 1910.

***Яўген Анішчанка.***



**Радашковіцкі замак**. Рэканструкцыя А.Я.Міцяніна.

**Радашковіцкі замак.** Існаваў у 16 ст. ў г. Радашковічы Менскага пав. (цяпер гар. пасёлак у Маладзечанскім р-не). Упершыню згадваецца ў інвентары Радашковіч за 1549. Размяшчаўся паміж 2 ставамі, на зробленым на рэках Гуйка і Вязынка «капцы сыпаным» і формай нагадваў няправільны чатырохвугольнік. Вада абкружала замак з усіх бакоў, прайсці да замкавай вежыбрамы можна было толькі па пад'ёмным мосце. Вежа мела памеры 8,5 х 21 м, была рублена з вял. бруса вышынёй у 4 паверхі. 1-ы паверх праразалі вароты. На 2-і паверх вёў «усход», праз які траплялі ў прыстасаваныя для абароны «сені». Тут мог быць калаўрот для пад'ёму ланцугамі «ўзвода» — моста. На гэтым паверсе знаходзілася «вялікая святліца» з паліванай печчу і 2 сталамі. 3-і паверх быў таксама прыстасаваны для абароны, тут стаяла невял. гармата. Дах вежы быў абабіты «белым жалезам». Злева ад вежы-брамы, на адлегласці 20 сажняў, стаяла другая, 3-павярховая вежа. 1-ы паверх займаў «свіран», 2-і — капліца, а на прыстасаваным для абароны 3-м знаходзілася гармата. Вежа была квадратная (10,6 х 10,6 м) і злучалася з вежайбрамай сцяной з 12 гародняў. На адлегласці 40 сажняў ад 2-й вежы ў куце замка стаяла рубленая з бярвён 3-я вежа. Яна была звязана 19 гароднямі з 2-й вежай і 11 гароднямі з 4-й круглай. Гэтая апошняя вежа замка злучалася 28-сажнёвай сцяной (13 гародняў) з уваходнай вежай-брамай. У замку была яшчэ адна вежа, не звязаная з замкавымі сценамі. Яна месцілася асобна на падворку і мела 4 паверхі, тры з якіх выкарыстоўваліся для гаспадарчых, а 4-ы — для абарончых патрэб. Даўжыня 1 гародні — каля 3,5 м. Баявыя завяршэнні гародняў і ўсіх пабудоў мелі наверсе «бланкі» — баявыя пляцоўкі, пярэднія сценкі якіх былі з бярвён.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.

**Радван** Ян (?, Вільня—пасля 1591), паэт-лацініст, адзін з заснавальнікаў жанру эпічна-гераічнай паэзіі ў ВКЛ. Паслядоўнік Вергілія сярод паэтаў Беларусі і Літвы ў 16 ст. Пачатковую адукацыю атрымаў у Вільні, вучыўся ў зах.-еўрап. ун-тах, дыплом атрымаў у Падуі. Падарожнічаў па Еўропе ў світце Хадкевічаў, пазней служыў у ваяводы смаленскага Я.Абрамовіча. Найб. значны твор — лацінамоўная паэма «Radivilas, sive de vita...», больш вядомая як «Радзівіліяда» (выдадзена ў 1588 разам з шэрагам панегірычных твораў Абрамовіча, А. Волана, І.Руцкага і інш. і вершамі самога Р.). З'яўляецца найлепшым узорам польска-лацінскіх спроб адаптацыі антычнай паэзіі да мясц. умоў, стылізавана пад «Іліяду» і творы Вергілія, прасякнута патрыятызмам, праслаўляе Радзіму і яе абаронцаў. У «Радзівіліядзе» і «Эпіталаме на вяселле Крыштофа Манівіда Дарагастайскага» (1590) пры апісанні прыроды і жывёльнага свету ВКЛ прасочваецца стылёвае падабенства да паэзіі М.*Гусоўскага*. Шэраг панегірычных вершаў Р. надрукаваны разам з творам Гжэгажа з Жарнаўца «Абарона пасцілы евангельскай» (1591).

*Літ.*: Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki. Poznań, 1965; Яго ж. Staropolska miłość. Poznań, 1981; Кавалёў С.В. Гераіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993.

***Анастасія Скеп'ян.***



Герб **«Радван»**.

**«Радван»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася больш за 150 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Дастаеўскія, Крычынскія, Паскевічы, Радзішэўскія, Шчыты, Юдзіцкія. У

чырвоным полі залатая царкоўная харугва з 3 канцамі з махрамі, на ёй залаты кавалерскі крыж; клейнод — над прылбіцай з каронай 5 страусавых пёраў. Вядомы з пач. 15 ст.

**радзецкі суд**, мясцовы суд для гараджан у ВКЛ. Аналагічны *бурмістраўска-радзецкаму суду*, але ў яго склад уваходзілі толькі *радцы*.

**Радзівіл** Альбрыхт (8.3.1558, Лукішкі каля Вільні—13.7.1592), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.*Радзівіла* Чорнага. Вучыўся ў Лейпцыгскім ун-це (1570—73) і ў Рыме (1575—76). У 1574 у Вільні перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва. У 1579—81 прымаў удзел у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, за ўдзел у заняцці Полацка ў 1579 прызначаны надворным маршалкам ВКЛ. Адначасова з 1579 староста ковенскі. Удзельнічаў у заключэнні *Ям-Запольскага перамір'я 1582*. З 1586 вял. маршалак ВКЛ. У спадчыну ад бацькі Р. атрымаў былыя Клецкае і Давыд-Гарадоцкае княствы, маёнткі Лебедзева, Хажова, Геранёны і Лаздуны ў Ашмянскім пав. У 1586 далучыўся да сямейнага дагавора Радзівілаў аб утварэнні родавых ардынацый і стаў 1-м клецкім ардынатарам. У Клецку пабудаваў мураваны касцёл, фундаваў шпіталь. У шлюбе з курляндскай герцагіняй Ганнай Кетлер меў 3 дачок і сына Яна Альбрыхта (1591—1626), 2-га клецкага ардыната.

**Радзівіл** Альбрыхт (25.3.1717, маёнтак Дзятлава Навагародскага ваяв.—пасля 1790), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.Ф.*Радзівіла*. Пасля смерці ў 1733 караля Аўгуста II выступаў разам з бацькам і братамі за абранне на трон Аўгуста III. Пасол на пацыфікацыйны сойм 1736, дзе падпісаў дыплом пра абранне Аўгуста III. У 1750 маршалак Трыбунала ВКЛ. У 1740-х г. палкоўнік панцырнай кавалерыі ВКЛ, з 1754 палкоўнік гусарскага знака ў харугве каралевіча Фрыдэрыка, з 1755 генерал-маёр войска ВКЛ. У час бескаралеўя 1763 праціўнік Чартарыйскіх, выступаў супраць абрання на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1768 далучыўся да *Барскай канфедэрацыі* і быў адным з кандыдатаў на пасаду яе маршалка ў ВКЛ; у 1770 абраны маршалкам канфедэрацыі ў Рэчыцкім пав. У 1771 распрацаваў план «вялізнай дыверсіі», які прадугледжваў распаўсюджанне канфедэрацыі па ўсёй Беларусі, захоп гал. замкаў, канцэнтрацыю войск у Бабруйску і наступны марш у Польшчу. Пасля ваенных няўдач выехаў у Сілезію, потым у Італію. У 1777 вярнуўся і прымірыўся з каралём. Валодаў Крожамі ў Жамойці, Глускам і Хальчам у Рэчыцкім пав. і інш.; у 1734—73 староста рэчыцкі. У шлюбе з Ганнай Кунегундай Халецкай меў 3 дачкі і сына Дамініка (1754—98), старасту кнышынскага.

**Радзівіл** Альбрыхт Станіслаў (мянушка А б а р о н ц а  П р а в о ў; 1.7.1593, г. Алыка Валынскага ваяв.—12.11.1656), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік, гісторык. Сын С.*Радзівіла*. У 1598—1605 вучыўся ў Віленскай акадэміі, пасля ў Вюрцбургу, з 1609 у Лёвене, да 1616 вандраваў па Нідэрландах, Францыі, Італіі, Швейцарыі. Пасол на соймы 1613 і 1619, дзе прызначаны падканцлерам ВКЛ. З канцлерам Л.Сапегам заключыў пагадненне, што адзін з іх абавязкова будзе знаходзіцца пры каралю Жыгімонце III для пільнавання інтарэсаў ВКЛ. На сойме 1623 прызначаны канцлерам ВКЛ. У знешняй палітыцы падтрымліваў планы Жыгімонта III аваладаць шведскім тронам (гл. *Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*). Каб зменшыць пагрозу з боку Турцыі і крымскіх татараў, выступаў за саюз з трансільванскім кн. Бетленам Габарам і аўстрыйскімі Габсбургамі. У 1632 падтрымаў абранне на трон Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV, але як шчыры католік выступаў супраць легалізацыі пры гэтым праваў пратэстантаў і праваслаўных. У 1646 выступіў супраць планаў караля распачаць вайну з Турцыяй. У 1648 падтрымаў абранне на трон Яна II Казіміра. Адной з прычын казацкага паўстання на Украіне лічыў «сілу нашых злых учынкаў і ўціск бедных», выступаў за рашучую барацьбу з Б.Хмяльніцкім. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайны 1655—60* выехаў у Прусію, у 1656 прымаў удзел у перагаворах з Даніяй і Галандыяй у Гданьску, дзе і памёр (бяздзетным). Пры правядзенні ўнутранай і знешняй палітыкі Р. рашуча адстойваў інтарэсы роду Радзівілаў, у т.л. кальвінісцкай галіны, дэманстрацыйна бараніў асобныя інтарэсы ВКЛ у Рэчы Паспалітай. Меў вял. зямельныя ўладанні на Валыні (Алыка і інш.), Беларусі — Нягневічы, Налібакі, маёнткі ў Літве і Польшчы. Трымаў шматлікія дзярж. ўладанні, у т.л. Барысаўскае (з 1629), Пінскае (з 1631), Геранёнскае (з 1644) староствы, быў адміністратарам Кобрынскай і Шавельскай эканомій. Заснаваў *Пінскі езуіцкі калегіум*. Аўтар і перакладчык каталіцкіх рэлігійных твораў. На лацінскай мове напісаў «Кароткі выклад падзей у Польскім каралеўстве ў час панавання Жыгімонта III, Уладзіслава IV і Яна Казіміра» (часткова апублікаваны ў польскім перакладзе Э.Катлубаем у 1848) і падрабязны «Дзённік» за 1632—56 — каштоўную крыніцу па ўнутранай і знешняй палітыцы Рэчы Паспалітай (упершыню апублікаваны ў польскім перакладзе Э.Рачынскім у 1839).

*Тв.*: Memoriale rerum gestarum in Polonia, 1632—1656. T. 1—5. Wrocław etc., 1968—75; Пол. пер. — Rys panowania Zygmunta III // Athenaeum. 1848. T. 3, z. 4; Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 1—3. Warszawa, 1980; Бел. пер. — Дыярыюш аб падзеях у Польшчы // Спадчына. 1995. № 6; 1996. № 1—3.

*Літ.*: C z a p l i ń s k i W. «Sprawiedliwy» magnat // Czapliński W. Dawne czasy. Wrocław, 1958.

***Валерый Пазднякоў.***


А.С.**Радзівіл**. Карціна 17 ст.

**Радзівіл** Альбрыхт Уладзіслаў (16.6.1589, г. Нясвіж—20.7.1636), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла* Сіроткі. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Нясвіжы, Браневе (1599—1601), Аўгсбургу (1604—06), падарожнічаў па Італіі. З 1609 на чале ўласных атрадаў удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* прыняў удзел у аблозе ў 1611 Пскова-Пячэрскага манастыра і ў выправах у 1611—12 на Маскву. Пасол на соймы 1613 і 1615. У 1614—20 стараста рыжскі. Пры падтрымцы цесця, канцлера Л.Сапегі, у 1620 прызначаны стольнікам ВКЛ, у 1622 крайчым ВКЛ, у 1626 кашталянам троцкім. У 1632 удзельнічаў у абранні караля Уладзіслава IV, які ў 1633 прызначыў яго кашталянам віленскім. Быў адным з багацейшых магнатаў ВКЛ. Пасля смерці бацькі атрымаў Шыдловец у Польшчы, Чарнаўчыцы ў Берасцейскім ваяв., Карэлічы і Лахву ў Навагародскім ваяв. Пасля смерці старэйшага брата Яна Юрыя стаў нясвіжскім ардынатам. У 1622 купіў Блювенічы ў Берасцейскім ваяв. Праз шлюб з Ганнай Соф'яй Зяновіч (1628) набыў Глыбокае, Смаргонь, Порплішча і Паставы ў Ашмянскім пав., Беліцу ў Аршанскім пав., Ворань у Полацкім ваяв., Прусавічы ў Менскім ваяв. Мецэнат, клапаціўся пра пашырэнне галерэі партрэтаў у Нясвіжы. У шлюбе з Ганнай Сапегай не меў дзяцей, у 2-м шлюбе меў сына і 3 дачок.

**Радзівіл** Аляксандр Людвік (4.8.1594, г. Нясвіж—23.3.1654), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла* Сіроткі. Вучыўся ў Нясвіжы, Германіі, падарожнічаў па Францыі, Італіі. Стольнік ВКЛ з 1626, крайчы ВКЛ з 1630, ваявода берасцейскі з 1631, надворны маршалак ВКЛ з 1635, вял. маршалак ВКЛ з 1637, ваявода полацкі ў 1654; староста слонімскі ў 1635—42, войт магілёўскі з 1632. Удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1621* з туркамі, у баях пад Смаленскам у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. Прымаў удзел у абранні на трон Уладзіслава IV (1632) і Яна II Казіміра (1648). Пасля смерці бацькі атрымаў маёнткі Белая і Дакудаў у Берасцейскім ваяв., Грэск у Навагародскім ваяв., Крожы ў Жамойці, пасля смерці брата Яна Юрыя — Карэлічы. У 1636 стаў нясвіжскім ардынатам. Збудаваў замак у Белай.

*Літ.*: Sajkowski A. Dokąd Litwini wracali: Wokół peregrynacji księcia Aleksandra Ludwika Radziwiłła // Wilno—Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur. Białystok, 1992. T. 4.

**Радзівіл** Багуслаў (3.5.1620, г. Гданьск, Польшча—31.12.1669), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, мецэнат. Сын віленскага кашталяна Я.*Радзівіла*. Вучыўся ў Кейданах, Вільні, Гронінгене і Утрэхце (Нідэрланды), Парыжы. Неаднаразова выбіраўся паслом на соймы, харужы ВКЛ у 1638—46, канюшы ВКЛ з 1646. Да 1648 знаходзіўся ў Галандыі і Францыі, каралём Людовікам XIV прызначаны генеральным палкоўнікам польскай пяхоты і кавалерыі французскага войска. З пачаткам паўстання казакоў на Украіне на чале з Б.Хмяльніцкім вярнуўся на радзіму. Атрымаў ад Яна II Казіміра пасаду генерала каралеўскай гвардыі, камандаваў палкамі ў польскім войску і войску ВКЛ, удзельнічаў у бітве пад Берасцечкам. У 1652 дамогся ў караля магдэбургскага права для сваіх г. Слуцка (паўторна) і Капыля, аднак адклаў увядзенне ў Слуцку поўнага магдэбургскага права. Забяспечыў Слуцк новымі фартыфікацыйнымі збудаваннямі — цытадэллю і крапаснымі сценамі з бастыёнамі і 4 брамамі. У горадзе быў размешчаны гарнізон у 1 тыс. чал., што дало гараджанам магчымасць вытрымаць аблогу і штурм рас. войска ў 1655. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* удзельнічаў у баявых дзеяннях, у т.л. ў аблозе Магілёва ў лют.—маі 1655. З пачаткам *Паўночнай вайны 1655—60* у ліп. 1655 разам са стрыечным братам, вял. гетманам ВКЛ Я.*Радзівілам* вёў перагаворы са шведскім каралём Карлам X Густавам, якія скончыліся падпісаннем *Кейданскай уніі 1655*. 8.10.1656 на чале брандэнбургскіх, шведскіх войск, сваіх атрадаў у бітве пад Просткамі (Прусія) пацярпеў паражэнне ад войска польнага гетмана ВКЛ В.Гасеўскага, быў паранены і ўзяты ў палон. Вызвалены ў выніку паражэння Гасеўскага 22.10.1656 пад Філіпавам каля Сувалак і перайшоў на службу да брандэнбургскага курфюрста Фрыдрыха Вільгельма — сваяка па матчынай лініі. Быў дыпламатычным прадстаўніком курфюрста ў перагаворах з польскім, аўстрыйскім і інш. дварамі. Удзельнічаў у заключэнні *Радноцкага дагавора 1656*. 14.10.1657 курфюрст прызначыў



Б.**Радзівіл**. Гравюра Е.Фалька. 1654.

яго генеральным губернатарам (намеснікам) і камандуючым брандэнбургскай арміяй у Прускім герцагстве. На соймах Рэчы Паспалітай выступаў за правы пратэстантаў, найперш кальвіністаў, да якіх належаў сам. Пасля прыняцця закона аб выгнанні арыян з Рэчы Паспалітай (1658) Р. прыняў шмат з іх у Прусіі. У апошнія гады жыцця вёў паліт. барацьбу з магнацкім родам Пацаў. Валодаў вял. латыфундыямі, пасля смерці бацькі стаў уладальнікам Слуцкага і Капыльскага княстваў, многіх маёнткаў, у выніку шлюбу са сваёй стрыечнай пляменніцай Ганнай Марыяй, дачкой Я.Радзівіла, атрымаў Кейданы, Дубінкі, Біржы, Заблудаў, Койданава, Беліцу і інш., трымаў Мазырскае, Бранскае, Барскае стараствы. У Слуцку сабраў архіў, б-ку, дзе захоўваліся каштоўныя рукапісы, у т.л. *Радзівілаўскі летапіс* (завяшчаў яе ў 1668 у Каралявец). Падтрымліваў кальвініцкія зборы і школы. Збіраў творы мастацтва. Складаў рэлігійныя гімны. Аўтар замалёвак з панарамамі бел. гарадоў, эскізаў і праектных чарцяжоў збудаванняў (захоўваюцца ў Нац. гіст. архіве Беларусі). На службе ў Р. былі многія вучоныя, дзеячы культуры, у т.л. Ю.*Народовіч-Наронскі*, С.*Незабытоўскі*. Пасля смерці Р. яго ўладанні (*«Нойбургскія маёнткі»*) перайшлі да дачкі Людвікі Каралiны.

*Тв.*: Informacja domowa i polityczna // Przyczynki do historii domowej w Polsce. Wilno, 1858; Autobiografia. Warszawa, 1979.

*Літ.*: Kalicki B. Bogusław Radziwiłł, koniuszy litewski: Szkic historyczny, Kraków, 1878; Хадыка Т.В. Графічныя лісты Багуслава Радзівіла // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. № 2; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975; Его ж. Древний город на Случи. Мн., 1985; Цыбуля В. Библиотека латинской книги в Слуцке // Свитязь: Альманах библиофилов Белоруссии. Мн., 1989; Габрусь Т. Навошта каню крылы, альбо Ушанаванне Багуслава Радзівіла // Спадчына. 1993. № 1.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Войцех (Альбрыхт; каля 1476—19.4.1519), дзеяч каталіцкай царквы ВКЛ. Сын канцлера М.*Радзівіла*. Біскуп луцкі з 1502, віленскі з 1507 (першы з магнатаў ВКЛ на гэтай пасадзе). Выступаў за унію правасл. і каталіцкай цэркваў. Дамагаўся кананізацыі св. *Казіміра*. Меў маёнткі ў Літве, Беларусі (Новы Двор, Ліпск).

**Радзівіл** Ганна Кацярына (23.9. 1676, г. Ракаў—23.10.1746), гаспадарчая дзеячка ВКЛ, мецэнатка. Дачка Гераніма Сангушкі і Канстанцыі Сапегі. Выхоўвалася на двары каралевы Марыі Казіміры Сабескай, у варшаўскіх манашак-візітак і сакраментак. З 1692 жонка падканцлера (пасля канцлера) ВКЛ К.С.*Радзівіла*. Пасля яго смерці (1719) пасялілася ў г. Белая і занялася гасп. дзейнасцю, кіраваннем вялізнымі маёнткамі мужа. Дзякуючы яе намаганням у валоданне Радзівілаў вярнуліся *«Нойбургскія маёнткі»*. Каля 1714 арганізавала вытворчасць дываноў і шпалер у Белай, Карэлічах і Нясвіжы. Заснавала *Налібоцкую шкляную мануфактуру*, *Урэцкую шкляную мануфактуру*, майстэрні па шліфоўцы вырабных камянёў у Белай і Янкавічах (Ашмянскі пав.), дзе рабіліся табакеркі, більярдныя кіі, шабельныя рукаяці, жэтоны для гульні, вазы. У ювелірнай майстэрні ў Белай вырабляліся каштоўныя шаблі, гузікі, упрыгожанні. Тут жа дзейнічала суконная мануфактура, існавала вытворчасць палатна, шытых вырабаў, мэблі, гадзіннікаў, карэт, парасонаў, конскай вупражы, каля 1727 пачала працаваць фарфоравая мануфактура. У 1741 пачалася вытворчасць фарфору ва Урэччы, каля 1736 пабудавана рудня ў Нягневічах, у 1737—41 — прадпрыемства па ліццю катлоў у Невелі. Адчыняліся школы па падрыхтоўцы мастакоў і рамеснікаў. Па ініцыятыве Р. будаваліся грэблі, масты, дарогі, млыны, корчмы, заводзілася жывёла галандскіх парод. Перабудавала ў стылі ракако палац у Белай, заклала загарадныя палацы ў блізкіх маёнтках Славіцінак і Раскоша. Перабудавала радзівілаўскі палац у Варшаве. Значна павялічыла бібліятэкі ў Белай і Нясвіжы, партрэтныя родавыя галерэі, упарадкавала радзівілаўскія архівы. Запрасіла ў Белую манашак-шарытак, якія адчынілі там шпіталь і школу для сірот. Фінансавала каранаванне ў 1730 Жыровіцкага абраза Маці Божай.

*Літ.*: Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746): Działalność gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000.

**Радзівіл** Геранім Вінцэнты (11.5. 1759, г. Нясвіж — 18.9.1786), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла* Рыбанькі. З-за секвестру радзівілаўскіх маёнткаў юнацкія гады правёў у Чэхіі і Германіі. Атрымаў дамашнюю адукацыю, адным з яго настаўнікаў быў Ю.*Катэнбрынг*. У 1775 ажаніўся з княжной Соф'яй Фрыдэрыкай Даротай Турн-Таксіс, дзякуючы чаму парадніўся з многімі пануючымі дынастыямі Еўропы. Служыў у аўстрыйскім войску. Быў падапечным, а пасля блізкім паплечнікам свайго брата К.С.*Радзівіла* Пане Каханку, які дапамог яму атрымаць высокія пасады на радзіме. Падкаморы ВКЛ з 1779, ротмістр гусарскай харугвы ў войску ВКЛ з 1780, староста менскі з 1783, пасол на соймы 1780 і 1784, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1782—83. Трымаў тэатр у Белай. Меў сыноў Мікалая, Караля, Дамініка, Гераніма.

**Радзівіл** Геранім Фларыян (4.5. 1715, г. Белая Берасцейскага ваяв.—17.5.1760), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, мецэнат. Сын К.С.*Радзівіла*. Атрымаў дамашнюю адукацыю, у 1730—35 падарожнічаў за мяжой. З 1731 стаў фактычным уладальнікам (юрыдычным з 1744) *«Нойбургскіх маёнткаў»*. Трымаў таксама Пшэмысльскае і Крычаўскае староствы. Падчашы ВКЛ у 1739—50, вял. харужы ВКЛ з 1750. Меў 6-тысячнае войска (па колькасці раўнялася войску ВКЛ). Гарнізоны размяшчаліся ў Слуцку (гал. сілы), Белай, Біржах, Кейданах, Невелі, Себежы, Крычаве, Капылі, Нягневічах, Рубяжэвічах, Белічы і набіраліся з мясц. шляхты і ваенна-служылых людзей (зямян, выбранцаў і інш.); афіцэры запрашаліся часткова з-за мяжы. У Белай, пасля ў Слуцку трымаў афіцэрскую школу (кадэцкі корпус). Р. захоўваў жорсткі парадак у сваіх гарадах і маёнтках, задушыў *Крычаўскае паўстанне 1743—44*. У 1756 пачаў будаваць на востраве Жыдвозера (перайменаваў яго ў Князьмор, цяпер воз. Чырвонае) мураваны замак пад назвай Венецыя; меркаваў стварыць на возеры флот з артылерыяй. Заснаваў тэатр у Белай і *Слуцкі тэатр Радзівіла* (1751), артысты для якога рыхтаваліся ў спец. школе (першая ў Рэчы Паспалітай). Сабраў карцінную галерэю, вял. б-ку, арганізаваў значнае будаўніцтва ў сваіх рэзідэнцыях — Белай і Слуцку. У шлюбах з Тэрэзай Сапегай, Магдаленай Чапскай і Аналяй Мянчынскай дзяцей не меў, і яго маёнткі перайшлі да брата М.К.*Радзівіла* Рыбанькі.



Г.Ф.**Радзівіл**. Мастак Я.Весель. Каля 1746.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985; Kowalczyk J. Hieronima Floriana Radziwiłła stosunek do sztuki i artystów // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Дамінік Мікалай (вер. 1648 або 1653—27.7.1697), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын А.Л.*Радзівіла*. Вучыўся ў Італіі. Удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1673* з туркамі і вайне супраць

Турцыі 1683. Падскарбі надворны ВКЛ у 1677—81, падканцлер ВКЛ у 1681—90, канцлер ВКЛ з 1690; маршалак Трыбунала ВКЛ у 1685, стараста лідскі, ваўкавыскі, вярбілаўскі. Пасол на соймы 1669 (удзельнічаў у абранні на трон Міхала Вішнявецкага), 1674 (падтрымаў абранне Яна III Сабескага), 1676, 1681. З 1690 ардынат клецкі. У шлюбе з Ганай Мар'янай Палубінскай меў 4 дачок, сыноў Яна Мікалая Аляксандра, Мікалая Фаўстына, Фелікса і Міхала Антонія (?—1721), старасту лідскага, крайчага ВКЛ з 1706. У шлюбе з Ганнай Крысцінай Любамірскай дзяцей не меў.

**Радзівіл** Ежы (4.2.1721—13.12. 1754), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.Ф.*Радзівіла*. Вучыўся ў піярскім «Калегіум нобіліум» у Варшаве. Паліт. кар'еры Р. садзейнічаў М.К.*Радзівіл* Рыбанька. Маршалак Трыбунала ВКЛ у 1744, пасол на сойм 1746, ваявода навагародскі з 1746. З 1744 палкоўнік гусарскай харугвы знака каралевіча Фрыдэрыка Хрысціяна. Стараста любашанскі і новагародскі. У шлюбе з Саламеяй Софʼяй Сапегай нашчадкаў не меў.

**Радзівіл** Ежы Юзаф (10.3.1668, г. Белая Берасцейскага ваяв.—2/3.1. 1689), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын гетмана М.К.*Радзівіла*. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Любліне, Пражскім ун-це, Італіі, Францыі. Выконваў дыпламатычныя даручэнні ў Англіі і Партугаліі. Падчашы ВКЛ у 1685—88, ваявода троцкі з 1688; пасол на сойм 1688. З 1680 ардынат нясвіжскі, адначасова з 1688 алыцкі, валодаў таксама Карэлічамі, Ішкалдзю, Грэскам у Навагародскім ваяв., Смаргонню і Порплішчамі ў Ашмянскім пав., Бялынічамі ў Аршанскім пав., маёнткамі ў Польшчы і Інфлянтах. У шлюбе з княжной Марыяй Элеанорай Ангальт-Дэсаў меў дачку, пасля яе заўчаснай смерці маёнткі Р. перайшлі да яго малодшага брата Караля Станіслава.

**Радзівіл** Жыгімонт Кароль (4.12. 1591, г. Нясвіж—5.11.1642), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла* Сіроткі. Вучыўся ў Нясвіжскім езуіцкім калегіуме, ун-це Балонні. У 1612 уступіў у рыцарскі *Мальтыйскі ордэн* і ваяваў з туркамі ў Міжземнамор'і. Бацька заснаваў для яго Сталавіцкую камандорыю ордэна ў складзе маёнткаў Сталавічы і Пацейкі ў Навагародскім ваяв. Удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1621* з туркамі. У час Трыццацігадовай вайны 1618—48 з 1622 у арміі Габсбургаў ваяваў супраць пратэстанцкіх нямецкіх князёў, з 1623 камандуючы кавалерыяй Рэчы Паспалітай у імперскім войску. У 1625 узначаліў таксама Пазнанскую камандорыю Мальтыйскага ордэна. На *вайну Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* у 1628 выставіў уласны полк. Удзельнічаў у баях пад Смаленскам у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. Крайчы ВКЛ у 1633—38, падчашы ВКЛ у 1638—42, ваявода новагародскі з 1642; пасол на соймы 1625, 1626, 1632, 1633, 1635, 1637, 1639. Збудаваў у Сталавічах касцёл Яна Хрысціцеля з мураваным «ларэтанскім домікам» Дзевы Марыі, у інш. сваіх уладаннях — 4 уніяцкія царквы, касцёл у Дзераўной, шпіталі ў Сталавічах і Крошыне. У канцы жыцця падтрымліваў каралеўскі план арганізацыі ў Рэчы Паспалітай асобнага прыярату Мальтыйскага ордэна, які меўся ўзначаліць. Памёр у Італіі. Меў Дзераўную, Хатаву, Крошын, Калдычэва і Бярозавец у Навагародскім ваяв., Шыдловец у Польшчы.

*Валерый Пазднякоў.*

**Радзівіл** Кароль Станіслаў (27.11. 1669, Кракаў—2.8.1719), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла*. Вучыўся ў Люблінскім езуіцкім калегіуме, падарожнічаў па Аўстрыі, Італіі, Францыі, Нідэрландах. Выконваў дыпламатычныя даручэнні ў Англіі і Партугаліі. Канюшы ВКЛ у 1686—90, падканцлер ВКЛ у 1690—98, канцлер ВКЛ з 1698; пасол на соймы 1687, 1688, 1690, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1694 і 1700. Удзельнічаў у кампаніі 1688 супраць татараў і туркаў. З 1695 змагаўся з Сапегамі за права валодаць «*Нойбургскімі маёнткамі*». Узначальваў рух бел. шляхты супраць Сапегаў, якія былі разбіты ў Алькеніцкай бітве 1700. У час *Паўночнай вайны 1700—21* выступіў супраць шведаў. Пад уражаннем ваенных поспехаў шведаў у 1706 перайшоў на бок шведскага караля Карла XII і Станіслава Ляшчынскага, падпісаўся пад Альтранштацкім трактатам пра дэтранізацыю Аўгуста II. Пасля Палтаўскай бітвы 1709 вярнуўся ў лагер прыхільнікаў Аўгуста II і Пятра I. Далучыўся да *Віленскай канфедэрацыі 1716*. Імкнуўся займаць цэнтрысцкую пазіцыю ў барацьбе магнацкіх груповак за ўладу і карыстаўся сімпатыяй з боку шляхты, ад якой атрымаў мянушку Юстус («справядлівы»). З 1689 ардынат нясвіжскі і алыцкі, валодаў таксама мястэчкамі Глыбокае і Смаргонь у Ашмянскім пав., Карэлічы, Ішкалдзь, Грэск у Навагародскім ваяв., Бялынічы ў Аршанскім пав.; маёнткамі ў Берасцейскім ваяв., Літве і Польшчы. Трымаў Браслаўскае, Камянецкае, Крычаўскае і інш. стараствы. Заснаваў базыльянскі манастыр у Міры, збудаваў касцёлы ў Налібаках і інш. Вёў дзённікі, якія ахопліваюць 1684—87 і 1689—1718 (не надрукаваны). У шлюбе з Ганнай Кацярынай з Сангушак (гл. *Радзівіл Г.К.*) меў 7 дачок, сыноў Мікалая Крыштофа (14.8.1695—2.6.1715), ротмістра пяцігорскага, падстолія ВКЛ з 1711, а таксама Міхала Казіміра, Альбрыхта Станіслава, Станіслава Ежы, Людвіка Дамініка, Гераніма Фларыяна.

*Валерый Пазднякоў.*



К.С.**Радзівіл** (1669–1719).

**Радзівіл** Кароль Станіслаў (мянушка Пане Каханку; 27.2.1734, г. Нясвіж — 21.11.1790), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла* Рыбанькі. Вучыўся ў Нясвіжскім езуіцкім калегіуме. У 1742 атрымаў пад сваю каманду кавалерыйскую харугву ў войску ВКЛ. Пасол на соймы 1748, 1752, 1754, 1760, 1761, 1762, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1750, яго маршалак у 1755. Падчашы

ВКЛ у 1752, мечнік ВКЛ у 1752—62, ваявода віленскі ў 1762—64 і 1768—90; генерал-маёр (1754), гененераллейтэнант войска ВКЛ (1759). Паліт. ўплыў Р. грунтаваўся на вялізнай латыфундыі. З 1762 ардынат нясвіжскі і алыцкі, валодаў таксама Слуцкам, Капылём, Белай, мноствам маёнткаў на Украіне, у Польшчы, Літве. Падтрымліваў у ВКЛ палітыку караля Аўгуста III. Для дасягнення сваіх мэт часта выкарыстоўваў ваенную сілу, вызначаўся свавольствам. Быў ворагам Чартарыйскіх, якіх падтрымала Расія пасля смерці караля (1763). Абвешчаная ў Гародні 16.4.1764 Генеральная канфедэрацыя ВКЛ выступіла супраць Р. Даведаўшыся, што канфедэраты разам з рас. войскам хочуць заняць Нясвіж, Р. са сваім войскам рушыў туды з Белай, але быў разбіты расіянамі пад Слонімам. Капітулявалі яго войскі і на Украіне. Р. схаваўся ў Малдове, пасля выехаў у Венгрыю і Саксонію. Рас. войскі занялі Нясвіж і Слуцк, Генеральная канфедэрацыя ВКЛ дэкрэтам ад 16.8.1764 за гвалтоўныя ўчынкі Р. пачынаючы з 1755 абвясціла яго ворагам айчыны і пазбавіла пасады ваяводы, яго маёнткі падлягалі канфіскацыі. Р. звярнуўся да рас. імператрыцы Кацярыны II з просьбай узяць яго пад сваю пратэкцыю і вярнуць маёнткі і абяцаў падтрымаць прапанаваную ёю кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай. Паколькі Кацярыне II пачала не падабацца палітыка абранага каралём Станіслава Аўгуста Панятоўскага і Чартарыйскіх, яна вырашыла скарыстаць супраць іх Р. Пад аховай рас. войск ён пераехаў у Радам, дзе 23.6.1767 узначаліў *Радамскую канфедэрацыю*. На надзвычайным сойме 1767 усе абвінавачванні з Р. былі зняты. Яму вернуты маёнткі і пасада ваяводы віленскага. Улетку 1768 Р. далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*, скіраванай супраць караля і рас. ўплыву, і пачаў збіраць у Нясвіжы свае войска. Там сабраліся і кіраўнікі атрадаў Барскай канфедэрацыі ў Беларусі. Рас. войскі з баямі занялі Нясвіж і Слуцк, Р. выехаў у Прусію. Да 1777 знаходзіўся ў эміграцыі ў Венгрыі, Турцыі, Чэхіі, Германіі, Францыі, Венецыі, уваходзіў у склад кіраўніцтва канфедэратаў. Каб адцягнуць Р. ад апазіцыі, рас. дыпламатыя зноў забяспечыла яму пратэкцыю Кацярыны II і вяртанне маёнткаў. Пасля вяртання на радзіму Р. памірыўся з каралём. Аднак становішча Р. пагоршылася, яго ўплыў на справы дзяржавы зменшыўся. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) яго маёнткі ва ўсх. Беларусі былі страчаны, астатнія разрабаваны. У час дзейнасці *Чатырохгадовага сойма 1788—92* Р. зноў збліўся з антыкаралеўскай апазіцыяй. Сфарміраваў полк, які перадаў у склад войска ВКЛ. Р. увайшоў у гісторыю як легкадумны палітык і абмежаваны чалавек. Жорсткі да падуладных, ён ставіўся добразычліва да шляхты (улюбёны зварот — «пане каханку») і быў папулярны ў яе асяроддзі. Трымаў тэатр і аркестр у Нясвіжы, пабудаваў летнюю рэзідэнцыю ў *Альбе* пад Нясвіжам, аднавіў палац у Слуцку. Аматар неверагодных баек і экстравагантных учынкаў, Р. як персанаж увайшоў у л-ру (творы Г.Жавускага, З.Красінскага, І.Ходзькі, Ю.Славацкага, Ю.І.Крашэўскага і інш.). У шлюбах з Марыяй Любамірскай і Тэрэзай Жавускай дзяцей не меў, усе яго ўладанні перайшлі да пляменніка Дамініка Гераніма.



К.С.**Радзівіл** Пане Каханку. Мастак К.Александровіч. 1786—90.

*Літ.*: Mycielski J. Książę «Panie Kochanku» w świetle własnej korespondencji. 2 wyd. SPb., 1898; Taurogiński T. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937; Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982; Sidorski D. «Panie Kochanku». Katowice, 1987.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Крыштоф (мянушка Пярун; 9.2.1547, Вільня — 20.11.1603), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.*Радзівіла* Рудога. Атрымаў дамашнюю адукацыю. Удзельнік *Інфлянцкай вайны 1558—82*, пачынаючы з *бітвы на Уле 1564*. З 1567 ротмістр коннай роты, крайчы ВКЛ у 1567—69, падчашы ВКЛ у 1569—79, гетман польны ў 1572—89, ахоўваў паўн.-ўсх. мяжу дзяржавы. У кампаніі 1580 узяў замак Усвяты і нанёс паражэнне праціўніку каля Вял. Лук. У жн.—кастр. 1581 атрад Р. (4 тыс. чал.) разам з атрадамі Ф.С.*Кміты-Чарнабыльскага* (2 тыс. чал.) зрабілі рэйд да вярхоўяў Волгі, занялі Старыцу і Ржэў. Гэты рэйд і аблога Пскова прымусілі Івана IV падпісаць перамір'е. У 1579—84 Р. займаў пасаду кашталяна троцкага, адначасова ў 1579—85 падканцлер ВКЛ. Пасля смерці бацькі з 1584 ваявода віленскі. Быў прыхільнікам самастойнасці ВКЛ. Пасля смерці Стафана Баторыя падтрымліваў план часткі магнатаў і шляхты ВКЛ абраць каралём цара Фёдара Іванавіча і стварыць дзярж. унію Польшчы, ВКЛ і Расіі на чале з вял. князем. Быў прыхільнікам мірных узаемадачыненняў з Расіяй. У 1589 атрымаў пасаду вял. гетмана ВКЛ. На чале атрадаў войска ВКЛ змагаўся з *Налівайкі паўстаннем 1594—96*. Дамогся шлюбу ў 1600 Соф'і Алелькаўны (гл. С.*Радзівіл*) са сваім сынам Янушам. Пасля смерці Соф'і (1612) Слуцкае княства і інш. ўладанні Алелькавічаў перайшлі да роду Радзівілаў. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* з 1600 Р. камандаваў войскамі ў Інфлянтах. 23.6.1601 нанёс паражэнне шведскаму войску пад Кокенгаўзенам (Кокнесе), у ліп. 1601 узяў Вендэн (Кесь). Як і бацька, Р. вызнаваў кальвінізм, будаваў кальвінскія зборы. Пры яго двары было шмат вучоных, з ім былі звязаны дзеячы бел. культуры А.*Рымша*, Г.*Пельгрымоўскі*, С.*Рысінскі*, А.*Волан*. Меў адну з найб. латыфундый у ВКЛ. Асн. маёнткі знаходзіліся ў Літве (Біржы, Віжуны і інш.), валодаў таксама Валожынам у Ашмянскім пав., Койданавам, Смалявічамі, Станькавам у Менскім пав., Уселюбам у Навагародскім пав. і інш. Трымаў Барысаўскае, Кокенгаўзенскае і інш. старасты. У шлюбе з Ганнай Собек меў дачку і сына Мікалая, у шлюбе з Кацярынай Астрожскай — сына Януша, у шлюбе з Кацярынай Тэнчынскай — дачку і сына Крыштофа, шлюб з Эльжбетай Астрожскай быў бяздзетным.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Крыштоф (15.3.1585—19.9.1640), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын К.*Радзівіла* Перуна. Вучыўся ва ун-тах Лейпцыга і Гайдэльберга, падарожнічаў па Швейцарыі, Францыі, Англіі і Нідэрландах. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* удзельнічаў у ваенных дзеяннях спачатку пад камандаваннем Я.К.*Хадкевіча*. У 1615 прызначаны на новастораную пасаду гетмана польнага (займаў яе да 1635). У 1617—18 вёў актыўныя дзеянні супраць шведскіх войск пад Рыгай і Парнавам (Пярну). Каб узмацніць коннае войска агнявой сілай, упершыню ў арміі ВКЛ увёў драгунскія атрады. Р. не змог адбіць напады шведскага караля Густава II Адольфа восенню 1621, і шведы пасля аблогі і штурмаў занялі Рыгу, пазней Мітаву (Елгаву), і Р. адступіў у Літву. Вясной 1622 яму ўдалося адбіць Мітаву, у кастр. 1625 заняў замкі на мяжы з Курляндыяй. У дальнейшых ваенных дзеяннях Р. не ўдзельнічаў з-за канфлікту з Жыгімонтам III Вазам (кароль не давяраў Р. як кальвіністу). У час выбараў караля ў 1632 Р. падтрымаў кандыдатуру каралевіча Уладзіслава. Быў маршалкам канвакацыйнага сойма, на якім па яго ініцыятыве прынята пастанова аб легалізацыі правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай. Кашталян віленскі ў 1633. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* Р. камандаваў невял. сіламі, удзельнічаў у некалькіх бітвах каля Смаленска ў вер.—кастр. 1633, у выніку якіх рас. войска 25.2.1634 капітулявала. Удзельнічаў у мірных перагаворах, якія скончыліся падпісаннем *Палянаўскага міру 1634*. За ваенныя заслугі атрымаў пасады ваяводы віленскага (1633) і вял. гетмана (1635), Магілёўскую эканомію і Чачэрскае староства. Быў адным з буйнейшых магнатаў ВКЛ. Валодаў маёнткамі пераважна ў Літве (Біржы, Свядасць, Яшуны і інш.), у Гродзенскім пав. — Заблудавам. Вял. дапамогу аказваў кальвініцкім суполкам, за свой кошт утрымліваў студэнтаў з ВКЛ у пратэстанцкіх ун-тах Германіі. У шлюбе з Ганнай Кішкай меў 2 дачок, сыноў Мікалая, Ежы, Стафана, Януша.

*Літ.*: Księcia Krzysztofa Radziwiłła, hetmana polnego Wielkiego Księstwa Litewskiego, sprawy wojenne i polityczne, 1621—1632. Paryż, 1859; Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Warszawa, 1995; A u g u s t y n i a k U. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640): Mechanizmy patronatu. Warszawa, 2001.

*Анатоль Грыцкевіч.*



К.**Радзівіл** (1585—1640). Гравюра В.Дэльфа. 1639.

**Радзівіл** Людвіка Караліна (27.2.1667—23.3.1695), рэлігійная дзеячка, мецэнатка. Дачка Б.*Радзівіла*. Рана асірацела і мела 11 апекуноў, сярод якіх брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых Вільгельм. У спадчыну ад бацькоў атрымала вял. маёнткі, у т.л. Слуцк, Капыль, Копысь, Любчу, Койданава, Смалявічы, Невель, Себеж, Кейданы, Біржы. Цэнтрам латыфундыі быў Слуцк. Р. выхоўвалася ў кальвініцкім асяроддзі ў Караляўцы (Кёнігсбергу) і з маленства была прызначана ў жонкі каму-небудзь з прынцаў або магнатаў. Курфюрст брандэнбургскі намовіў Р. выйсці замуж за яго малодшага сына маркграфа Людвіга (8.7.1666—7.4.1687), супраць чаго выступалі нясвіжскія Радзівілы; кароль Ян III Сабескі хацеў ажаніць Р. са сваім сынам Якубам. Пасля шлюбу з Людвігам Р. пераехала ў Берлін, а сваёй латыфундыяй кіравала праз адміністратараў. Падтрымлівала грашыма і будавала кальвінскія зборы ў Літве і Беларусі, плаціла стыпендыі студэнтам, якія вучыліся ў пратэстанцкіх ун-тах. Паводле яе загаду ў 1684 у Караляўцы быў надрукаваны малітоўнік на літ. мове для сялян-кальвіністаў. У 1688 паўторна выйшла замуж за швагра германскага імператара, каталіцкага прынца нойбургскага і пфальцграфа рэйнскага Карла Філіпа (4.11.1661—31.12.1742) з дынастыі Вітэльсбахаў і пераехала ў Гайдэльберг. Працягвала аказваць дапамогу кальвіністам у ВКЛ, утрымлівала *Слуцкую друкарню*. 20.3.1690 выдала прывілей, у якім абвяшчала на будучыню ў сваіх гарадах і маёнтках свабоду веравызнання пратэстантам і праваслаўным і гарантавала, што царк. унія ў яе ўладаннях не будзе ўведзена. Яе спадкаемцы прытрымліваліся гэтага акта. Пасля смерці Р. яе латыфундыя (*«Нойбургскія маёнткі»*) стала аб'ектам спрэчак паміж магнатамі ВКЛ і нямецкімі князямі, пакуль у 1730—40-я г. не вярнулася ў рукі Радзівілаў.



Медаль у гонар Л.К.**Радзівіл**. Медальер І.Гёгн Малодшы. 1675.



Л.К.**Радзівіл**.

*Літ.*: Ł u k a s z e w i c z J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T. 1. Poznań, 1842; H e l c e l A.-Z. O dwukrotnem

zamęźciu xięźniczki Ludwiki Karoliny Radziwiłłównej i wynikłych ztąd w Polsce zamieszkach. Kraków, 1857; Грицкевич А.П. Древней город на Случи. Мн., 1985; Яго ж. Людвіка Караліна Радзівіл (1667—1695) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2003. Вып. 2.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Радзівіл** Марцін Мікалай Кароль (11.11.1705, мяст. Цімкавічы Новагародскага ваяв.—11.1.1782), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Я.М.Радзівіла. Вучыўся ў Нясвіжы, Вільні, рана выявіў здольнасці да навукі. У 1720 выехаў у замежнае падарожжа, у час якога завёў знаёмствы з многімі вучонымі. Крайчы ВКЛ у 1723—52, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1737. З 1729 ардынат клецкі. Арганізаваў лабараторыі ў Клецку і Чарнаўчыцах, праводзіў даследаванні па фізіцы, медыцыне, хіміі, захапіўся алхіміяй. Відаць, душэўна захварэў. Паводле сведчанняў сучаснікаў, верыў у перасяленне душ, намерваўся перайсці ў іудаізм, для чаго пачаў вучыць іўрыт, завёў гарэм, абвінавачваўся ў гвалтах і забойствах. У 1748 быў аддадзены каралём пад апеку Г.Ф.Радзівілу, які трымаў Р. пад вартай у Белай і Слуцку; пасля апеку пераняў М.К.Радзівіл. У шлюбе з Аляксандрай Бялхацкай меў дачку і сына Юзафа Мікалая, у шлюбе з Мартай Трамбіцкай — сыноў Міхала Гераніма, Дамініка, Якуба і Антонія Мікалая (4.10.1741—крас. 1778), рэферэндара вялікага кароннага духоўнага ў 1767—73, сакратара вялікага кароннага духоўнага з 1773, пробашча нясвіжскага з 1772.

*Літ.*: Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982.

**Радзівіл** Марыя (каля 1625—14.1.1660), дзяячка праваслаўнай царквы ВКЛ. Дачка гаспадара Малдовы *Васіля* Лупу. З 1643 захады, каб ажаніцца з Марыяй, рабіў кальвініст, падкаморы ВКЛ (пасля ваявода віленскі і вял. гетман) Я.*Радзівіл*, якога ў гэтым падтрымліваў кароль Уладзіслаў IV. Дынастычны шлюб павінен быў умацаваць пазіцыі кальвініцкай лініі роду Радзівілаў, забяспечыць ім міжнар. дапамогу. Пасля дазволу турэцкага ўрада шлюб адбыўся ў Ясах 5.2.1645, абрад вянчання здзейсніў правасл. кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла ў прысутнасці шматлікіх паслоў (ад Уладзіслава IV, брандэнбургскага курфюрста, курляндскага герцага, князёў Валахіі і Трансільваніі, канстанцінопальскага патрыярха і інш.). У якасці вена Р. атрымала ад мужа 600 тыс. злотых, забяспечаных на розных маёнтках, а таксама Орлю і Любчу ў Навагародскім ваяв. У ВКЛ Р. вяла шырокую дзейнасць па абароне праваслаўя. Па яе ініцыятыве ў Кейданах у 1652 пабудавана царква, пры якой жылі манахі. Заснавала ў Заблудаве Успенскі манастыр, рабіла шматлікія наданні цэрквам і манастырам. У 1656 як уладальніца маёнткаў на занятых рас. войскамі тэрыторыях Р. прыняла царскае падданства, але працягвала распараджацца маёнткамі па ўсім ВКЛ, выязджала ў Варшаву і Каралявец. Памерла ў Слуцку, дзе пахавана ў Спаскай царкве ў замку.

**Радзівіл** Мацей (10.11.1749—2.9.1800), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, кампазітар, драматург. Сын Л.М.Радзівіла. Атрымаў дамашнюю адукацыю ў Нясвіжы. З канца 1770-х г. зблізіўся з віленскім ваяводам К.С.*Радзівілам* Пане Каханку. Падкаморы ВКЛ у 1786—90, кашталян віленскі з 1790; пасол на сойм 1780. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* перадаў у распараджэнне войска ВКЛ замкі, арсеналы і радзівілаўскую міліцыю, якімі распараджаўся як апякун малалетняга Д.Г.Радзівіла, за што атрымаў падзяку ад Чатырохгадовага сойма 1788—92. У 1793 у складзе Камісіі паліцыі ВКЛ. Удзельнічаў у падрыхтоўцы *паўстання 1794*, уваходзіў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады* (чл. дэпутацыі публічнага скарбу). Дараваў асабістую волю сваім сялянам, якія прымалі ўдзел у паўстанні. У кастр. 1794, занепакоены радыкалізацыяй паўстання, выехаў у Галіччыну. Апошнія гады жыцця правёў у сваім маёнтку Паланэчка (Новагародскае ваяв.), які на пэўны час стаў культ. асяродкам у краі. Як драматург дэбютаваў у 1784, калі да прыезду караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Нясвіжы была пастаўлена опера «Агатка, або Прыезд пана» (лібрэта Р., музыка Я.Д.*Голанда*). Пазней опера ставілася ў Варшаве, Любліне, Вільні, Львове; з 1799 выконвалася ў 2-актавай версіі над назвай «Добры пан — бацька для падданых» і карысталася папулярнасцю да канца 1820-х г. У оперы апаэтызаваны людзі з народа, даводзілася неабходнасць аблягчыць долю сялян, паказана, што цяжкая сял. праца з'яўляецца асновай усеагульнага дабрабыту. У 1786 да імянін К.С.Радзівіла ў Альбе пад Нясвіжам пастаўлена опера «Войт альбанскага сялення» (лібрэта і музыка Р.), дзе асуджалася жорсткае абыходжанне з сялянамі. З інш. яго музычных твораў: дывертысмент, саната, серэнада, 6 паланэзаў. Пісаў вершы. У творчасці Р. сентыменталізм і класіцызм спалучаліся з перадрамантычнымі тэндэнцыямі. Валодаў маёнткамі ў Літве і Польшчы, на Беларусі — Паланэчкай, Крошынам і інш. У шлюбе з Эльжбетай Хадкевіч меў дачку і сына Канстанціна. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 148.

*Тв.*: Бел. пер. — Агатка, або Прыезд пана // Тэатральная Беларусь. 1993. № 4.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII в. Мн., 1992; Яе ж. Нясьвіжскі маэстра // Мастацтва. 1994. № 3; Яе ж. Опера «Агатка» і яе месца ў еўрапейскай культурнай прасторы // Там жа. 1995. № 9.

*Валерый Пазднякоў.*

**Радзівіл** Мікалай (Мікалай Радзівілавіч, мянушка Стары; ?—1509), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын *Радзівіла Осцікавіча*. Намеснік смаленскі з 1481. У 1488 як кашталян троцкі і намеснік навагародскі ўвайшоў у склад Рады ВКЛ. Хутка вылучыўся на гал. ролю ў Радзе і ў 1492 заняў пасады ваяводы



М.**Радзівіл** Стары. Партрэт невядомага мастака. Канец 17 — пач. 18 ст.

віленскага і канцлера ВКЛ. Выконваючы завяшчанне вял. кн. Казіміра, у 1492 забяспечыў пераход трона ВКЛ вял. кн. Аляксандру. Выступаў за шлюб Аляксандра з *Аленай Іванаўнай*, дачкой вял. кн. маскоўскага Івана III. Быў адным з ініцыятараў падпісання ў 1499 новага акта уніі паміж ВКЛ і Польшчай. Кіраваў ВКЛ пры адсутнасці ў дзяржаве вял. князя. Паводле завяшчання Аляксандра садзейнічаў перадачы ў 1506 прастола ВКЛ Жыгімонту I. Стварыў вял. латыфундыю, якая заклала падмурак магутнасці роду Радзівілаў. Валодаў Кейданамі, Біржамі, Дубінкамі і інш. ў Літве, Жупранамі, Геранёнамі каля Ашмян, Нягневічамі, валасцю Бобрык на Прыпяці. У шлюбе з Соф'яй Манівід меў дачку, сыноў Мікалая, Яна, Войцеха, Юрыя. Пасля быў жанаты з Соф'яй, дачкой кн. І.Ю.Заслаўскага, і з Соф'яй (Фядорай), дачкой кн. І.Рагацінскага.

**Радзівіл** Мікалай (каля 1470—1521), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.*Радзівіла* Старога. Крайчы ВКЛ у 1488—93, падчашы ВКЛ у 1493—1505, маршалак вялікі ў 1505, ваявода троцкі ў 1505—10, ваявода віленскі і канцлер ВКЛ з 1510. Удзельнічаў у войнах ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай 1500—03, 1507—08 і 1512—22, *у бітве на Вядрошы 1500*, *Клецкай бітве 1506* з татарамі. У 1515 узначальваў пасольства ВКЛ на з'ездзе Ягелонаў і Габсбургаў у Пожані (Браціславе) і Вене. У 1518 атрымаў ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна I тытул князя «на Ганязі і Мядзеле». Меў шматлікія маёнткі ў Літве (Шырвінты, Кейданы, Упнікі, Солы і інш.), на Падляшшы (Ганязь, Райгорад, Кнышын), Хоўхлу і Хаценчыцы каля Маладзечна, трымаў Бабруйскую вол., Бельскае староства. У шлюбе з Эльжбетай Саковіч меў 3 дачок, сыноў Яна, Мікалая і Станіслава.

**Радзівіл** Мікалай (мянушка Руды; 1512—27.4.1584), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын гетмана Ю.*Радзівіла*. Належаў да біржанска-дубінкаўскай лініі роду Радзівілаў, з 1547 князь Свяшчэннай Рымскай імперыі «на Біржах і Дубінках». Атрымаў дамашнюю адукацыю, ведаў бел., польскую і лац. мовы. Удзельнічаў у вайне Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1534—37, у т.л. ў аблозе



М.**Радзівіл** Руды. Карціна 17 ст.

Старадуба ў 1535. Падчашы ВКЛ у 1544—51, лоўчы ВКЛ у 1546—54. Асаблівы рост уплыву Р. на дзярж. справы звязаны са шлюбам яго сястры Барбары з вял. князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам (1547). У 1549 атрымаў ад яго правы велікакняжацкага намесніка з рэзідэнцыяй у Вільні. Дзейнічаў разам са сваім стрыечным братам Мікалаем Чорным, які адыгрываў гал. ролю ў гэтым саюзе. Ваявода троцкі ў 1550—66 і віленскі ў 1566—79, вял. гетман ВКЛ у 1553—66 і з 1577, канцлер ВКЛ у 1566—79. У 1566—57 і з 1560 камандаваў войскам



Пячатка М.**Радзівіла** Рудога. 1573.

ВКЛ, якое знаходзілася на мяжы з Інфлянтамі. У пач. *Інфлянцкай вайны 1558—82* яго войска ў 1561 уступіла на тэр. Інфлянтаў. Конніца Р. (5 тыс. чал.) на чале з Ю.Тышкевічам і Р.Трызнам дайшла да Дэрпта (Тарту). Гал. сілы на чале з самім Р. аблажылі рас. гарнізон у замку Таўрус (Тарваст). Праз 3 тыдні 31.8.1561 гарнізон капітуляваў. У час аблогі Полацка войскам Івана IV у лют. 1563 Р. з войскам у 5 тыс. чал. не здолеў дапамагчы полацкаму гарнізону, а пасля ўзяцця Полацка рас. войскам адышоў да Менска. Камандаваў войскам ВКЛ у пераможнай *бітве на Уле 1564*. Улетку 1564 Р. заблакіраваў рас. гарнізон у Полацку. Рашуча выступаў супраць заключэння уніі з Польшчай. У 1569 ён не паехаў на Люблінскі сойм і не падпісаў акт Люблінскай уніі. У сярэдзіне 1576 перайшоў на бок Стафана Баторыя. Каб забяспечыць падтрымку Р., кароль зноў даў яму пасаду гетмана ВКЛ. У час полацкай кампаніі 1579 Р. разам з сынамі выставіў у войска 1000 коннікаў і 100 пехацінцаў. Удзельнічаў у аблозе і ўзяцці Полацка. У кампаніі 1580 войска Р. (6 тыс. наёмных жаўнераў, 3 тыс. магнацкіх вайскоўцаў і 20 тыс. шляхецкага апалчэння) узяло замкі Усвяты і Азярышча. У 1581 удзельнічаў у паходзе на Пскоў. Р. вызнаваў кальвінізм і пасля смерці М.Радзівіла Чорнага (1565) узначаліў пратэстантаў у ВКЛ. У Біржах Р. стварыў цэнтр Рэфармацыі ў Літве і адкрыў там кальвінісцкую школу. Гал. маёнткі Р. знаходзіліся ў Літве: Біржы, Дубінкі, Шырвінты, Раканцішкі, Салечнікі, меў таксама Свір, Міхалішкі, Мядзел, Жупраны, Баруны ў Ашмянскім пав., Індуру і Котру ў Гарадзенскім пав., Жырмуны, Сялец, Збляны, Дакудава ў Лідскім пав., Уселюб і Ліпск у Навагародскім пав., Койданава і Вязынь у Менскім пав. Трымаў шматлікія староствы і дзяржавы (Барысаў, Ліда, Мерач, Мазыр, Ашмяны, Васілішкі і інш.). У шлюбе з Кацярынай Івінскай меў дачку і сыноў Мікалая і Крыштофа. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 15.

*Літ.*: Грыцкевіч А. Бітва каля Улы // Бел. гіст. часоп. 1994. № 3; Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Warszawa, 1995; Ragauskienė R. Lietuvos Didžiosios Kunidaikštystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (apie 1515—1584 m.). Vilnius, 2002.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Мікалай (мянушка Ч о р н ы; 4.2.1515, Нясвіж—28/29.5.1565), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын кашталяна троцкага Я.*Радзівіла*. Атрымаў дамашнюю адукацыю, выхоўваўся пры каралеўскім двары, ведаў бел., польскую і лац. мовы. Удзельнічаў у вайне Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1534—37, на якую разам з братам Янам выставіў 160 коннікаў. У 1544 атрымаў пасаду маршалка земскага (вялікага) і ўзначаліў Раду ВКЛ і соймы. З гэтага часу ўдзельнічаў у вызначэнні палітыкі дзяржавы. Спрыяў у 1547 шлюбу сваёй стрыечнай сястры Барбары з вял. князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам. У 1547 атрымаў тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі «на Алыцы і Нясвіжы». У 1550-я г. заняў дадаткова пасады канцлера ВКЛ (1550) і ваяводы віленскага (1551). Дамогся заключэння ў 1553 саюза Польшчы і ВКЛ з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі. Узначальваў дзярж. камісію па правядзенні аграрнай рэформы (*валочнай памеры*) у гаспадарскіх маёнтках, якая падрыхтавала «*Уставу на валокі*» *1557*. Падтрымліваў паліт. саюз ВКЛ з Польшчай, аднак быў рашучым праціўнікам федэрацыі з ёю і адстойваў суверэнітэт ВКЛ. Таму, пакуль ён быў жывы, дзярж. унія з Польшчай не была заключана. Дзякуючы ініцыятыве Р. на сойме 1554—55 была забяспечана дапамога польскага войска ў выпадку нападу Маскоўскай дзяржавы на ВКЛ. З мэтай заключэння саюза на выпадак вайны з Масковіяй у Швецыю было накіравана пасольства. Разам з тым Р. не парываў адносін і з Маскоўскай дзяржавай. У 1555 з царом Іванам IV заключана 6-гадовае перамір'е да 1562. Р. непасрэдна займаўся прыбалтыйскай праблемай. Мэтай палітыкі ВКЛ было далучэнне *Інфлянтаў*. У вер. 1557 па ініцыятыве Р. падпісаны дагавор з магістрам Лівонскага ордэна В.Фюрстэнбергам аб узаемнай абароне ад Расіі. У пачатку *Інфлянцкай вайны 1558—82* Р. выступаў супраць прапановы Івана IV заключыць саюз супраць Крымскага ханства, бо бачыў, што цар хоча адцягнуць увагу ВКЛ ад Інфлянтаў, каб заваяваць іх. Па прапанове Р. паны-рада ў Вільні вырашыла заключыць больш цесны дзярж. саюз з Інфлянтамі. 31.8.1559 заключаны Віленскі дагавор аб пратэктараце Жыгімонта Аўгуста над Лівонскім ордэнам. Паўд.-ўсх. частка Інфлянтаў (Латгалія) была занята войскам ВКЛ. Пад старшынствам Р. 28.11.1561 у Вільні падпісаны акт аб падпарадкаванні Інфлянтаў сумесна ВКЛ і Польшчы, і ВКЛ уступіла ў вайну з Расіяй за Інфлянты. Р. быў прызначаны адміністратарам Інфлянтаў. У 1561, з ад'ездам Жыгімонта Аўгуста ў Польшчу, Р. быў абвешчаны намеснікам вял. князя ў ВКЛ. Ён згадзіўся з Жыгімонтам Аўгустам пра неабходнасць судова-адм. рэформы, і *Бельскім прывілеем 1564* абвешчана ўтварэнне шляхецкіх саслоўных судоў. Потым праведзена павятовая рэформа і створаны органы мясц. шляхецкага самакіравання — *соймікі*. Рэформы спрыялі кансалідацыі феад. саслоўя, дапамаглі дзяржаве выстаяць у цяжкія гады вайны. Р. узначальваў рэфармацыйны рух у ВКЛ. На пач. 1550-х г. ён далучыўся да лютэранскай царквы, а праз 2 гады перайшоў у больш радыкальную плынь пратэстанцтва — у кальвінізм. Пры ім Берасце і Нясвіж сталі цэнтрамі пратэстанцтва ў Беларусі і Літве, адчынены *берасцейскія друкарні* і *Нясвіжская друкарня*. Пры садзейнічанні Р. надрукавана славутая *Берасцейская Біблія*. Р. адчыняў кальвінскія малітоўныя дамы і школы. Ён валодаў вял. латыфундыямі ў Беларусі (цэнтр — Нясвіж) і на Валыні (Алыка); яго найб. буйныя маёнткі: Клецкае і Давыд-Гарадоцкае княствы (з 1558), Лахва і Нягневічы ў Навагародскім пав., Здзітаў у Слонімскім пав., Дуброва, Шацк і Узда ў Менскім пав., Геранёны ў Ашмянскім пав., Дусяты, Свядасць і Бігушкі ў Вількамірскім пав., Лукішкі каля Вільні, Шыдловец у Польшчы; трымаў Барысаўскае, Берасцейскае, Ковенскае і Шавельскае староствы. У шлюбе з Эльжбетай Шыдлавецкай меў 4 дачок, сыноў Мікалая Крыштофа, Юрыя, Альбрыхта, Станіслава і Яна. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 18.


М.**Радзівіл** Чорны. Гравюра з альбома «Выявы роду князёў Радзівілаў». Нясвіж. 1758.

*Літ.*: J a s n o w s k i J. Mikołaj Czarny Radziwiłł (1515—1565): Kanclerz i marszałek ziemski Wielkiego Księstwa Litewskiego, wojewoda wileński. Warszawa, 1939; K o s m a n M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Г р ы ц к е в і ч А. Дзейнасць Віленскага Сінода рэфармацкіх абшчынаў у Вялікім княстве Літоўскім // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1995. Кн. 4; Я г о ж. Мікалай Радзівіл (Чорны) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. Вып. 1.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Радзівіл** Мікалай (каля 1546—18.12.1589), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.*Радзівіла* Рудога. Атрымаў дамашнюю адукацыю. На чале ўласных атрадаў удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, узяцці Полацка ў 1579. Лоўчы ВКЛ у 1574—80, ваявода навагародскі з 1579. Вызнаваў кальвінізм. Валодаў маёнткамі ў Літве (Віжуны, Дубінкі і інш.), Жырмуны, Ліпічна, Беліца і Дакудава ў Лідскім пав., Індура ў Гарадзенскім пав., Востраў у Навагародскім пав., Мядзел у Ашмянскім пав.; трымаў Мазырскае староства (з 1576), Мерацкую дзяржаву. У першым шлюбе жанаты з Аляксандрай Вішнявецкай. У шлюбе з Аленай Глябовіч меў 3 дачок і сына Юрыя.

**Радзівіл** Мікалай Крыштоф (мянушка С і р о т к а; 2.8.1549, г. Чмелеў Сандамірскага ваяв., Польшча—28.2.1616), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, мецэнат, пісьменнік. Сын М.*Радзівіла* Чорнага. Пачатковую адукацыю атрымаў у Лукішках пад Вільняй і ў Нясвіжы. З 1563 вучыўся ва ун-тах Страсбурга і Цюбінгена, наведаў Цюрых, Мілан, Падую, Рым, сустракаўся з імператарам Максімілянам II, папам Піем V. У 1567 атрымаў у спадчыну вял. бацькавы маёнткі, стаў апекуном малодшых братоў і сясцёр. Удзельнік *Інфлянцкай вайны 1558—82*: у 1567 уз-

началіў уласны атрад у Радашковіцкай аперацыі, у 1568 удзельнічаў у аблозе Улы. У час заключэння *Люблінскай уніі 1569*, як і большасць паноў ВКЛ, адмаўляўся прысягаць каралю Жыгімонту II Аўгусту са сваіх маёнткаў на Падляшшы і зрабіў гэта толькі пад пагрозай іх канфіскацыі. Адыход ад палітыкі сабатажу каралеўскага плана уніі і ўдзел у Інфлянцкай вайне прынеслі Р. ў 1569 годнасць маршалка надворнага ВКЛ. 1.7.1569 ён падпісаў акт Люблінскай уніі. Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста на з'ездзе сенатараў у Кнышыне ў 1572 Р. заявіў, што літвіны будуць дамагацца звароту ВКЛ Падляшша, Валыні, Брацлаўшчыны і Кіеўшчыны. У 1573 быў у складзе дэлегацыі ў Парыжы, каб запрасіць на трон Генрыка Валезы. У 1574 Р. пачаў контррэфармацыйную дзейнасць, даваў сродкі для скупкі пратэстанцкай л-ры (у т.л. *Берасцейскай Біблії*). Падтрымліваў правасл. цэрквы, але больш клапаціўся пра пабудову касцёлаў. З уцёкамі Генрыка Валезы (1574) зноў падтрымліваў кандыдатуру Эрнеста Габсбурга на трон Рэчы Паспалітай, але пасля паразумеўся са Стафанам Баторыем. У час ваеннай кампаніі 1579 разам з братам Альбрыхтам прывёў уласны атрад пад Свір, удзельнічаў у аблозе Полацка, дзе быў паранены. За ўдзел у кампаніі прызначаны маршалкам вялікім ВКЛ (1579). У 1581 удзельнічаў у аблозе Пскова. У 1582 выехаў у Італію, адкуль у 1583 рушыў як пілігрым у Святую Зямлю, наведаў Крыт, Кіпр, Сірыю, Палесціну, Егіпет. Падарожжа апісаў у кн. «Пэрэгрынацыя» (на лац. мове; Бранева, 1601), якая была перакладзена на многія еўрап. мовы і вытрымала каля 20 выданняў. Пасля вяртання на радзіму прысвяціў сябе рэлігійным справам і разбудове рэзідэнцыі і Нясвіжа. У 1586 адмовіўся ад пасады маршалка вялікага ВКЛ на карысць свайго брата Альбрыхта і атрымаў урад кашталяна троцкага. У 1590 прызначаны на пасаду ваяводы троцкага. У 1591 на Віленскай канвакацыі разам з інш. сенатарамі ВКЛ выступіў супраць намінацыі свайго брата Юрыя на пасаду кракаўскага біскупа, каб біскупам у Вільні не быў прызначаны паляк. Удзельнічаў у задушэнні *Налівайкі паўстання 1594—96*. Падтрымаў заключэнне *Берасцейскай уніі 1596*, быў адным з 3 каралеўскіх паслоў на сабор у Берасці. У 1604 прызначаны ваяводам віленскім. Разам з інш. лідэрамі ВКЛ выступаў супраць падтрымкі Лжэдзмітрыя I і ўмяшання ва ўнутр. справы Масквы, супраць *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. У ВКЛ Р. валодаў буйнейшымі латыфундыямі. Ад бацькі да яго перайшлі Нясвіж, Ліпск, Лахва, Шацк, Свержань і інш. разам з тытулам князя «на Алыцы і Нясвіжы». Ад маці атрымаў Шыдловец у Польшчы разам з тытулам графа. Па завяшчанні ад стрыечнага брата Ю.Ільініча ў 1568 атрымаў Мірскае графства, Зэльву і Дворышча (Лідскі пав.), Чарнаўчыцы і Белую (Берасцейскае ваяв.). Пасля падзелу маёнткаў жонкі з яе сёстрамі да яго перайшлі Дзераўная з Хотавам і Востравам (Менскае ваяв.), Пацейкі (Навагародскае ваяв.), Жодзішкі (Ашмянскі пав.), Жыгімонт II Аўгуст падараваў яму Крожы на Жмудзі, Жыгімонт III Ваза — Грэск. Шмат маёнткаў купіў, у т.л. Салтанаўшчыну, Затур'ю, Кунасу, Мікалаеўшчыну, Магільна, Гарадзею, Гавязну і інш., што значна павялічыла *Нясвіжскае княства*. Разам з братамі Станіславам і Альбрыхтам стварыў у 1586 Нясвіжскую, Клецкую і Алыцкую ардынацыі, стаў першым нясвіжскім ардынатам. У 1579 выдаў прывілей на самакіраванне г. Мір. Па яго хадайніцтве ў 1586 Стафан Баторый даў Нясвіжу магдэбургскае права. З ліку першых правёў у многіх маёнтках *валочную памеру*. Запрашаў з-за мяжы таленавітых архітэктараў (Дж.М.*Бернардоні*), ліцейшчыкаў (Г.Мольтцфельд), рамеснікаў. Фундаваў касцёлы і шпіталі ў Нясвіжы, Дуброве, Чарнаўчыцах, Міры, Свержані, Белай. Збудаваў замкі ў Белай і Нясвіжы (сабраў там галерэю партрэтаў, б-ку, збраёўню), *Нясвіжскі езуіцкі калегіум*, *Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак*, *Нясвіжскі кляштар бернардзінцаў* (разам з жонкай), заклаў парк у *Альбе* пад Нясвіжам. Па ініцыятыве Р. і за яго кошт выдадзена першая дакладная карта ВКЛ (каля 1603, захавалася 2-е выд., Амстэрдам, 1613). У шлюбе з Эльжбетай Яўфіміяй Вішнявецкай меў 3 дачок, сыноў Мікалая, Яна Юрыя, Альбрыхта Уладзіслава, Крыштофа Мікалая, Жыгімонта Караля, Аляксандра Людвіка. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 128.



М.К.**Радзівіл** Сіротка.
Гравюра Л.Кіліяна.

*Тв.*: Бел. пер. — Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва ясна асветленага князя ягамосці Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю // Кніга жыццій і хаджэнняў. Мн., 1994.

*Літ.*: Z dokumentów Xięcia Mikołaja Krzysztofa Radziwiłła zwanego Sierotką. Warszawa, 1905; Siekierski M. Landed Wealthin the Grand Duchy of Lithuania: the Economic Affairs of Prince Nicholas Christofer Radziwiłł (1549—1616) // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991—92. T. 20—21; Гурын М. Дзейнасць М.К.Радзівіла Сіроткі ў Нясвіжы // Мастацкая культура Нясвіжа: гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы навук. канф. Мн., 1996; Яго ж. Дзейнасць М.К.Радзівіла Сіроткі ў Мірскім графстве // Бел. гіст. часопіс. 1998. № 1; Bernatowicz T. Miles christianus et peregrinus: Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998; Kempa T. Mikołaj Krzysztof Radziwiłł Sierotka (1549—1616), wojewoda wileński. Warszawa, 2000.

***Міхаіл Гурын.***

**Радзівіл** Мікалай Фаўстын (хросныя імёны Мікалай Альбрыхт Ігнацы Пётр; 21.5.1688, мяст. Дзятлава Слонімскага пав.—2.2.1746), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын Д.М.*Радзівіла*. Вучыўся ў Нясвіжы, Парыжы. У пач. *Паўночнай вайны 1700—21* падтрымліваў Аўгуста II і ўдзельнічаў у баях са шведамі, пасля перайшоў на іх бок, з 1709 зноў у антышведскім лагеры. Чашнік ВКЛ у 1706—09, мечнік ВКЛ у 1710—29, ваявода навагародскі з 1729; пасол на соймы 1718, 1720, 1722, 1726; генерал-лейтэнант (1725). У 1733 як саюзнік Расіі садзейнічаў абранню на трон Рэчы Паспалітай Аўгуста III, далей заставаўся агентам пе-




М.Ф.**Радзівіл**. Партрэт невядомага мастака. 1720—30-я гг.

цярбургскага двара (атрымліваў штогод 5 тыс. руб.). Выконваў абавязкі камандуючага войскамі ВКЛ. Валодаў Дзятлавам у Слонімскім пав., Глускам, Парэччам, Уселюбам у Навагародскім пав., Крожамі ў Жамойці і інш., трымаў Бабруйскае староства. У шлюбе з Барбарай Завішай меў 6 дачок, 8 сыноў, у т.л. Удальрыка Крыштофа, Альбрэхта, Ежы, Станіслава.

**Радзівіл** Міхал Геранім (29.9.1744—28.3.1831), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, мецэнат. Сын М.М.Радзівіла. Вучыўся ў Львове, Нясвіжы. Мечнік ВКЛ у 1771—75, віленскі кашталян у 1775—90 і ваявода з 1790; пасол на сойм 1773, чл. Пастаяннай Рады ў 1780—83 і 1793—94, чл. *Адукацыйнай камісіі* з 1783 (старшыня ў 1793). У 1792 далучыўся да *Таргавіцкай канфедэрацыі*. У час *паўстання 1794* знаходзіўся ў Пецярбургу, не супрацьдзейнічаў аказанню яго ўраднікамі дапамогі паўстанню, выстаўленню рэкрутаў. Пасля адышоў ад паліт. дзейнасці. Сабраў у Нябораўскім палацы каштоўную калекцыю медалёў, б-ку (уключала прыватную б-ку Людовіка XVIII), карцінную галерэю, збор гравюр. Сканцэнтраваў у сваіх руках вялізныя зямельныя ўладанні ў Польшчы (Нябораў, Крулікарня, Аркадыя і інш.), Украіне, Беларусі (Цімкавічы і інш.), з 1823 ардынат клецкі. У шлюбе з Аленай Пшаздзецкай меў 3 дачок, сыноў Антонія Генрыка, Караля Лукаша, Міхала Гедэона, Андрэя Валенцыя і Людвіка Мікалая (1773—1830), ардыната клецкага ў 1813—23.



М.Г.**Радзівіл** (1744—1831). Мастак А.Граф. 1785.

**Радзівіл** Міхал Казімір (26.10.1635—14.11.1680), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын А.Л.*Радзівіла*. Вучыўся ў Нясвіжы, Балонні. Стольнік ВКЛ у 1652—53, крайчы ВКЛ у 1653—56, падчашы ВКЛ у 1656—61, віленскі кашталян у 1661—66 і ваявода ў 1666—68, гетман польны і падканцлер ВКЛ з 1668; пасол на соймы 1648, 1659, 1661, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1664. З пачаткам *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* умацаваў Нясвіжскі замак, што дало магчымасць вытрымаць аблогу 1655. У чыне палкоўніка ўдзельнічаў у бітвах са шведамі ў Польшчы ў 1656 і Курляндыі ў 1659. Умацаваны Р. Нясвіжскі замак вытрымаў у 1660 паўторную аблогу рас. войск. У 1660 удзельнічаў у аблозе Магілёва, бітве на р. Бася, прымаў удзел у мірных перагаворах з Расіяй. Удзельнічаў у пераможнай *Хацінскай бітве 1673* з туркамі. У час міжкаралеўя 1673—74 імя Р. называлася сярод кандыдатаў на трон, але ён падтрымаў абранне Яна III Сабескага і стаў яго блізкім паплечнікам. Удзельнічаў у антытурэцкіх кампаніях 1674—75 і 1677 на Украіне. У 1679 пасланы з дыпламатычнай місіяй да герм. імператара, у Венецыю і да рымскага папы дамагацца агульнага саюзу з Расіяй супраць Турцыі. Памёр на зваротным шляху ў Балонні. З 1654 ардынат нясвіжскі, адначасова з 1667 алыцкі; валодаў Крожамі ў Літве, Белай і Славатычамі ў Берасцейскім ваяв., Шыдлоўцам і інш. Трымаў шматлікія староствы, у т.л. Лідскае, Крычаўскае, Прапойскае, Гомельскае. Заснаваў кляштар бенедыкцінцаў пад Нясвіжам (1673). У шлюбе з Кацярынай Сабескай (сястра Яна III Сабескага) меў дачку, сыноў Мікалая Францішка, Багуслава Крыштофа, Яна, Людвіка, Ежы Юзафа, Караля Станіслава.

***Валерый Пазднякоў.***

**Радзівіл** Міхал Казімір (мянушка Р ы б а н ь к а; 13.6.1702, г. Алыка Валынскага ваяв.—22.5.1762), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, мецэнат. Сын К.С.*Радзівіла*. Атрымаў дамашнюю адукацыю. Пасля смерці бацькі (1719) стаў ардынатам нясвіжскім і алыцкім, адным з багацейшых магнатаў Рэчы Паспалітай. З 1720 неаднаразова выбіраўся паслом на соймы, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1728; канюшы ВКЛ у 1728—34. У час замежнага падарожжа ў 1723 атрымаў ад германскага імператара месца ў імперскім рэйхстагу. У паліт. жыцці спярша супрацоўнічаў з групоўкай князёў Чартарыйскіх, пасля смерці караля Аўгуста II (1733) выступіў супраць новаабранага караля Станіслава Ляшчынскага. Удзельнічаў у арганізацыі новага выбарчага сойма, дзе ў кастр. 1733 у прысутнасці рас. войска і ўласнага войска Р. каралём быў абраны Аўгуст III. За гэта ў 1734 атрымаў пасаду маршалка надворнага. У 1734—35 на чале сваіх харугваў удзельнічаў у баях супраць прыхільнікаў Ляшчынскага ў Беларусі, якіх узначальваў А.Пацей. Перамогі садзейнічалі набыццю Р. новых пасад, польны гетман ВКЛ у 1735—44, вял. гетман ВКЛ з 1744, троцкі кашталян у 1735—37 і ваявода ў 1737—42, віленскі кашталян у 1742—44 і ваявода з 1744. У 1741 разам з вял. гетманам ВКЛ М.С.Вішнявецкім прадухіліў стварэнне ў Літве і Беларусі канфедэрацыі супраць караля, што яшчэ больш умацавала становішча Р. У 1744 пачаў ваен. дзеянні на Украіне супраць ваяводы сандамірскага Я.Тарлы з-за валодання маёнткамі. У 1740-я г. ўзначаліў у ВКЛ магнацка-шляхецкую групоўку, якая выступала супраць палітыкі Чартарыйскіх па рэфармаванні анархічнага дзярж. ладу Рэчы Паспалітай; супраць Чартарыйскіх заключыў пагадненне з вял. каронным гетманам Ю.Патоцкім. Падтрымліваў добрыя адносіны з рас.

уладамі. У 1748 як галава роду Радзівілаў зняволіў клецкага ардыната М.Радзівіла, які быў аб'яўлены вар'ятам, і атрымаў у распараджэнне яго маёнткі. Камандаваў задушэннем *Камянецкага паўстання 1754—56*. Пасля смерці малодшага брата Гераніма Фларыяна (1760) атрымаў у спадчыну яго Слуцкае і Капыльскае княствы, Біржы, Кейданы, Копысь, Койданава, Невель, Себеж, Белую і інш. Адбудоўваў Нясвіж і Нясвіжскі замак, якія моцна пацярпелі ў Паўн. вайне 1700—21, запрашаў у свае маёнткі архітэктараў (К.*Ждановіч*), мастакоў (*Гескія*), артыстаў, рамеснікаў. Заснаваў *Нясвіжскую друкарню*, *Нясвіжскі кадэцкі корпус*, у якім рыхтаваліся афіцэры для яго ўласнага войска, *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў*. Трымаў шмат мануфактур (гл. *Нясвіжская суконная мануфактура*, *Нясвіжская дывановая мануфактура*, *Налібоцкая шкляная мануфактура*, *Урэцкая шкляная мануфактура*, *Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў*, *Свержанская фаянсавая мануфактура*, *Карэліцкія шпалеры*). Шмат гадоў вёў дзённік. У шлюбе з Францішкай Уршуляй Вішнявецкай (гл. *Радзівіл* Ф.У.) меў 4 дачок, сыноў Міхала Крыштофа, Яна Тадэвуша і Караля Станіслава; у шлюбе з Ганнай Мыцельскай меў 3 дачок, сына Гераніма Вінцэнта.

*Тв.*: Бел. пер. — Дыярыюш Князя Міхала Казіміра Радзівіла Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага В. К. Літ. // Спадчына. 1994. № 4—5; 1995. № 1—6; 1996. № 1—2, 4.

*Літ.*: Taurogiński B. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937; Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki. Poznań, 1965; Leśniewski S. Poczet hetmanów polskich i litewskich, XVIII w. Warszawa, 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Соф'я [1.5.1585—9(19).3.1612], рэлігійная дзячка, беларуская праваслаўная святая. Дачка слуцкага кн. Юрыя Юр'евіча (1559—86) і Барбары Кішкі, апошняя з княжацкага роду *Алелькавічаў*. Выхоўвалася ў праваслаўі. Рана асірацела і стала ўладальніцай вял. латыфундыі пад апекай сваякоў Хадкевічаў. Пасля смерці дзядзькоў Аляксандра (1591) і Яна Сымона (1592) да Соф'і адышло ўсё Слуцкае княства з гарадамі Слуцк і Капыль, мяст. Раманава, Старобін, Любань, Пясочнае і Ленін, 32 фальваркі.



С.**Радзівіл**. Гравюра з альбома «Выявы роду князёў Радзівілаў». Нясвіж. 1758.

Яе апекуны Хадкевічы завінаваціліся Радзівілам вял. суму грошай, і ў 1600 дамовіліся выдаць Соф'ю замуж за Я.*Радзівіла* (у будучым кашталян віленскі), за што доўг скасоўваўся і Хадкевічы атрымлівалі 360 тыс. злотых і 500 валок зямлі. Аднак спрэчкі паміж Хадкевічамі і Радзівіламі ледзь не выліліся ў баявыя дзеянні. Пры пасрэдніцтве караля Жыгімонта III Вазы бакі паразумеліся. Хадкевічы адмовіліся ад апекі, атрымалі 360 080 злотых і 500 валок зямлі, іх доўг быў скасаваны. 1.10.1600 у Берасці адбыўся шлюб Соф'і з Радзівілам. Хоць муж вызнаваў кальвінізм, Соф'я засталася праваслаўнай. Шмат увагі аддавала дабрачынным справам, падтрымлівала правасл. цэрквы і манастыры ў Слуцкім княстве, якое дзякуючы ёй захавала сваё правасл. аблічча. Пасля заўчаснай смерці Р. Слуцкае княства, згодна з ранейшай дамоўленасцю, перайшло ў род Радзівілаў. Труна з астанкамі Соф'і знаходзілася ў царкве Слуцкага Трайчанскага манастыра і шанавалася як цудатворная. Цяпер мошчы зберагаюцца ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Соф'я ўваходзіць у Сабор бел. святых. Дзень яе памяці 19 сакавіка.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985; Мельников А.А. Путь непечален. Мн., 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Станіслаў (12.5.1559, в. Лукішкі, цяпер у межах Вільнюса—19.3.1599), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.*Радзівіла* Чорнага. Вучыўся ў Нясвіжы, Лейпцыгу, падарожнічаў па Італіі, Іспаніі, Партугаліі, Францыі; ведаў 12 моў. У 1574 перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва. У 1580—81 на чале ўласнага атрада ўдзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Маршалак вялікі ВКЛ у 1592—95, стараста жамойцкі з 1595. Аўтар рэліг. твораў, перакладаў. У 1586 удзельнічаў у заснаванні 3 радзівілаўскіх ардынацый і стаў 1-м алыцкім ардынатам. Валодаў таксама Нягневічамі ў Навагародскім ваяв., Налібакамі ў Менскім ваяв., Дунілавічамі ў Ашмянскім пав. Фундаваў касцёлы ў Налібаках, Дунілавічах. У шлюбе з Марынай Мышкай меў 2 дачок, сыноў Станіслава, Ежы, Мікалая Крыштофа, Альбрыхта Станіслава.

**Радзівіл** Станіслаў (3.5.1722, мяст. Дзятлава Слонімскага пав.—22.4.1787), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын М.Ф.*Радзівіла*. Вучыўся ў Нясвіжы. Служыў у войску ВКЛ, генерал-маёр (1750), генерал-лейтэнант кавалерыі (1765). Крайчы ВКЛ у 1752—59, падкаморы ВКЛ у 1759—79; пасол на соймы 1750, 1760, 1762, 1767, 1776, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1763. Быў кіраўніком групоўкі Радзівілаў у Навагародскім ваяв., Слонімскім, Ваўкавыскім і Лідскім пав., адказваў за выбары радзівілаўскіх прыхільнікаў на мясц. сойміках. Ваяваў з прыхільнікамі *Барскай канфедэрацыі*. Меў маёнткі ў Навагародскім, Віленскім і Троцкім ваяв. У шлюбе з Каралінай Пацей меў 2 дачок, сыноў Мікалая і Ежы.

**Радзівіл** Станіслаў Казімір (1648—8.12.1690), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Міхала Караля Радзівіла. Вучыўся ў Нясвіжы, Ліёне, падарожнічаў па Францыі, Англіі, Галандыі, Італіі. Стольнік ВКЛ у 1670—80, маршалак вялікі ВКЛ з 1680, генерал гвардыі Яго Каралеўскай Мосці; пасол на соймы 1664—65, 1670, 1678—79. З 1683 ардынат клецкі, валодаў таксама Ішкалдзю, Лысіцай, Лахвай, Чучэвічамі і часткай Нягневічаў і Навагародскім ваяв., часткай Налібакаў у Менскім ваяв. і інш. Заснаваў *Клецкі кляштар дамініканцаў*. З-за бяздзетнага шлюбу з французскай маркізай Марыяй Крысцінай дэ Бецюн пасля яго смерці Клецкая ардынацыя


С.К.**Радзівіл**. Карціна 17 ст.

перайшла ў лінію нясвіжскіх ардынатаў да Д.М.*Радзівіла*.

**Радзівіл** Удальрык Крыштоф (28.1.1712, мяст. Дзятлава Слонімскага пав.—21.7.1770), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, паэт, гісторык. Сын М.Ф.*Радзівіла*. Вучыўся ў Варшаве, Лягніцы. Канюшы ВКЛ у 1734—62, вял. пісар ВКЛ у 1762, стараста менскі ў 1739—46; пасол на соймы 1730, 1733, 1736, 1746, 1764, 1767. Служыў у войску ВКЛ, генерал-маёр (1743), генерал-лейтэнант (1748). У 1749 камандаваў паходам супраць укр. *гайдамакаў*, які апісаў у друкаваным «Дыярыушы» («Diariusz podjazdu mojego na hajdamaków», без пазначэння месца і года выдання). Сабраў вял. б-ку, ведаў шмат моў, у т.л. грэчаскую, нямецкую, французскую, італьянскую, англійскую. Аўтар твораў «Апісанне ўсіх нацый у Еўропе» («Opisanie wszystkich nacji w Europie znajdujących się»), «Універсальная гісторыя» («Historia uniwersalna», рукапіс налічвае 3648 старонак, у 1758 надрукаваны пачатак), «Сусветныя крытыкі або сатыры» («Krytyki światowe albo satyry»), «Вучоныя забавы ў вершах і прозе» («Uczone zabawy wierszem i prozą»), гісторыі роду Радзівілаў, панегірыкаў, элегій, од. Выдаў кн. «Апісанне клопатаў людзей усіх саслоўяў» («Opisanie zgryzot ludzkich we wszytkich stanach», Пачаеў, 1741), тэхнічныя трактаты, некаторыя вершаваныя творы. Пераклadaў на польск. мову творы Сафокла, П.Карнеля, Ж.Расіна. Спрабаваў увесці ў спектаклі прыдворных тэатраў бел. мову. Па-беларуску гаворыць адзін з персанажаў перараробкі Р. твора Э.Бурселя «Камедыя Эзопа» (захаваліся 5 радкоў яго ўступнага маналога). Р. валодаў маёнткамі ў Польшчы і на Украіне. Быў жанаты з Соф'яй Рэй, пасля з Элеанорай Каменскай, з якой меў сына Матэвуша (1768—1818), генерала рас. арміі.

*Літ.*: Borek P. O tym jak książę Udalryk Radziwiłł hajdamaków gromił // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003.

**Радзівіл** Францішка Уршуля (13.2. 1705, г. Чартарыйск Валынскага ваяв.— 23.5.1753), драматург, паэт. Дачка Януша Антонія Вішнявецкага. Атрымала выдатную дамашнюю адукацыю. З 1725 жонка М.К.*Радзівіла* Рыбанькі, уладальніка Нясвіжскай ардынацыі. Аднавіла і папоўніла княжацкую б-ку ў Нясвіжы, займалася культурна-асветніцкай дзейнасцю. Наладжвала ў Нясвіжы літаратурныя салоны, у 1740-я г. заснавала *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў.* У 1744 узнагароджана імператарскім ордэнам Зорнага Крыжа. Пісала на польскай і французскай мовах. Аўтар каля 80 дыдактычных, пахавальных, прынагодных, лірычных і філасофска-рэфлексійных вершаў, вершаваных пасланняў, партрэтаў і загадак. Для пастановак на тэатральных сцэнах Нясвіжа напісала 16 драматычных твораў, сярод якіх камедыі, трагедыі і оперы. 13 п'ес з'яўляюцца арыгінальнымі сачыненнямі, 3 — адаптацыямі камедый Мальера. Збор драматычных твораў Р. пад назваю «Камедыі і трагедыі» («Komedye y tragedye») быў надрукаваны, відаць, у Жоўкве ў 1754. Драматургічная сістэма Р. развівалася пад моцным уплывам французскага, італьянскага і іспанскага тэатраў 17 ст., а таксама ў рэчышчы прыдворнай (каралеўскай і магнацкай) тэатральнай культуры Рэчы Паспалітай пач. 18 ст. У адпаведнасці з гэтай культ. традыцыяй пастаноўкі Нясвіжскага тэатра спалучалі ў сабе элементы слоўнага, музычнага і харэаграфічнага мастацтваў. На прафесійным узроўні ў Нясвіжы ставіліся оперныя і балетныя пастаноўкі. Глыбокая рэфлексійнасць, імкненне


Ф.У.**Радзівіл**. Гравюра з альбома «Выявы роду князёў Радзівілаў». Нясвіж. 1758.

адлюстраваць унутраны духоўны свет чалавека (у першую чаргу жанчыны), павучальнасць і адначасова забаўляльнасць — дамінанты паэтычнай культуры Р. Яе літ. творчасць, якая была яшчэ цесна звязаная з колам тэм і вобразаў позняга барока, але адзначана таксама ўплывам ідэалогіі Асветніцтва, — арыгінальная і самабытная з'ява ў шматмоўнай бел. л-ры 18 ст. Тэатр Р. у Нясвіжы стаў узорам для стварэння прыдворных сцэн у Гародні, Ружанах, Слоніме і інш. магнацкіх асяродках Беларусі. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 151.

*Тв.*: Teatr Urszuli Radziwiłłowej. Warszawa, 1961; Бел. пер. — Паэтычныя лісты і вершы // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мн., 2002. Вып. 3; Перасцярогі збавенныя // Наша вера. 2003. № 2; Выбраныя творы. Мн., 2003.

*Літ.*: Krzyżanowski J. Talia i Melpomena w Nieświeżu: Twórczość Urszuli Franciszki Radziwiłłowej // Teatr Urszuli Radziwiłłowej. Warszawa, 1961; Sajkowski A. Z dziejów teatru nieświeskiego // Pamiętnik Teatralny. 1961. Z. 3; Яго ж. Od Sierotki do Rybeńki: W kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. Poznań, 1965; Judkowiak B. Słowo inscenizowane: O Franciszce Urszuli Radziwiłłowej — poetce. Poznań, 1992; Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992; Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992; Некрашэвіч-Кароткая Ж.В.

Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл. Мн., 2002.

***Жанна Некрашэвіч-Кароткая.***

**Радзівіл** Юзаф Мікалай (13.11.1736, Кракаў—1813), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.М.Радзівіла. З 1759 ардынат клецкі. Пісар вялікі ВКЛ у 1764—73, ваявода менскі ў 1773—84, троцкі кашталян у 1784—88 і ваявода з 1788; пасол на соймы 1760, 1764, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1782. У 2-й пал. 1760-х г. прыхільнік групоўкі Чартарыйскіх, падтрымліваў абранне на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Далучыўся да *Радамскай канфедэрацыі* (быў абраны маршалкам Мазырскай канфедэрацыі). Меў таксама маёнткі ў Польшчы, быў адным з апекуноў над латыфундыяй К.С.*Радзівіла* Пане Каханку ў час яго эміграцыі. У шлюбе з Антанінай Мянчынскай меў сына Антонія, у шлюбе з Вікторыяй Астрарог — 3 дачок.

**Радзівіл** Юрый (мянушкі В і к т а р, П е р а м о ж ц а, Л і т о ў с к і  Г е р к у л е с; каля 1480—крас. 1541), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын канцлера М.*Радзівіла*. Заснавальнік біржанска-дубінкаўскай галіны роду Радзівілаў. З 1500-х г. займаў пасады намеснікаў, у т.л. вяленскага, мейшагалаўскага, мерацкага, уцянскага, мазырскага (у 1511—14), гарадзенскага (з 1514), лідскага і беліцкага (з 1528). Падчашы ВКЛ у 1509—17, ваявода кіеўскі ў 1511—14, гетман надворны (польны) у 1520—23, кашталян троцкі ў 1522—27 і віленскі з 1527, адначасова маршалак надворны з 1528 і вял. гетман ВКЛ з 1531. Праславіўся сваім удзелам у войнах, перамогамі ў 30 бітвах. У 1508 удзельнічаў у вайне з Маскоўскай дзяржавай. У 1511 са слуцкім кн. Ю.С.Алелькавічам разбіў крымскіх татараў ва ўрочышчы Рутка за 20 міль ад Кіева. Удзельнічаў у пераможнай *Вішнявецкай бітве 1512* з татарамі. У *Аршанскай бітве 1514* камандаваў лёгкай конніцай на левым флангу. У 1517 удзельнічаў у паходзе пад Пскоў, а ў 1519 — у баях з маскоўскім войскам каля Крэва. Разам з К.Астрожскім разбіў татараў у *бітве на Альшаніцы 1527*. У 1519—21 ваяваў супраць Тэўтонскага ордэна. Камандаваў войскам ВКЛ у вайне супраць Маскоўскай дзяржавы 1534—37. У 1535 войска на чале з Р. і каронным вял. гетманам Я.Тарноўскім узяло Гомель і Старадуб. У 1530-х г. Р. разам з канцлерам ВКЛ А.Гаштольдам і жамойцкім старастам Я.Радзівілам уваходзіў у магнацкі трыумвірат, які фактычна кіраваў ВКЛ у час адсутнасці вял. князя. Быў адным з багацейшых магнатаў ВКЛ. Валодаў маёнткамі пераважна ў Літве, на Беларусі меў маёнткі Свір, Міхалішкі, Жупраны, Баруны, Геранёны ў Ашмянскім пав., Індура, Котра, Табола ў Гарадзенскім пав., Жырмуны, Дакудава, Сялец і Збляны ў Лідскім пав., Уселюб і Ліпск у Навагародскім пав., Вязынь, Налібакі, Камень Харэцкі ў Менскім пав. Быў жанаты з Барбарай Кішкай, пасля з Барбарай Коля, з якой меў дачок Ганну і *Барбару* (вял. княгіня літоўская і каралева польская), сына Мікалая.

*Літ.*: Памятники истории Восточной Европы: Источники XV—XVII вв. Т. 6. Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. / Сост. М.М.Кром. М.; Варшава, 2002.

***Анатоль Грыцкевіч.***



Ю.**Радзівіл** (каля 1480—1541). Карціна 17 ст.

**Радзівіл** Юрый (Ежы; 31.5.1556, в. Лукішкі, цяпер у межах Вільнюса—23.1.1600), царкоўны і дзярж. дзеяч Рэчы Паспалітай. Сын М.*Радзівіла* Чорнага. Вучыўся ў Лейпцыгскім ун-це (да 1572), вывучаў філасофію і тэалогію ў Рымскім калегіуме (1575—76). У дзяцінстве выхоўваўся ў кальвінісцкім духу, у 1576 перайшоў у каталіцызм. Каад'ютар (памочнік-намеснік) біскупа В.*Пратасевіча* (1574—81). Біскуп віленскі ў 1581—91, у 1583 атрымаў званне кардынала. Актыўна змагаўся супраць Рэфармацыі, у 1581 увёў у сваёй епархіі цэнзуру друку. У 1582 на ўласныя сродкі адчыніў *Віленскую духоўную семінарыю*. У 1582—84 намеснік караля (губернатар) у *Інфлянтах*, але гэтая пасада была яму ў цяжар. Пасля смерці Стафана Баторыя на элекцыйным сойме 1587 падтрымліваў прадстаўніка аўстрыйскай дынастыі Габсбургаў Максіміляна, але абраны быў Жыгімонт III Ваза. Пасля збліжэння Жыгімонта III у 1589 з Габсбургам уплыў Р. пры двары зноў вырас. З 1591 біскуп кракаўскі. Спрыяў шлюбу Жыгімонта III з эрцгерцагіняй з дома Габсбургаў Ганнай (1592). Адзін з бліжэйшых дарадчыкаў караля, у 1596—97 вёў перагаворы пра далучэнне Рэчы Паспалітай да антытурэцкай каталіцкай лігі.



Ю.**Радзівіл** (1556—1600).

*Літ.*: K u r c z e w s k i J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych.

Wilno, 1912; M a c h a y F. Działalność duszpasterska kardynała Radziwiłła biskupa krakowskiego (1591—1600). Kraków, 1936.

**Радзівіл** Юрый (14.12.1578—13.2.1613), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын навагародскага ваяводы М.*Радзівіла*. Вучыўся ў Страсбургу, Базелі, падарожнічаў па Германіі, Швейцарыі. Дзякуючы падтрымцы свайго апекуна К.*Радзівіла* Перуна ў 1589 стаў старастам мазырскім, у 1590 — дзяржаўцам анішкінскім. Кашталян троцкі з 1600, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1599 і 1605. Шчыры кальвініст, удзельнічаў у заключэнні паліт. саюза паміж пратэстантамі і праваслаўнымі, скіраванага супраць контррэфармацыі і царк. уніі. На чале ўласных атрадаў прыняў удзел у антыкаралеўскім *Зэбжыдоўскага рокашы 1606—09*. Валодаў маёнткам Дубінкі ў Віленскім ваяв., Беліца, Дакудава, Ліпічава, Жырмуны ў Лідскім пав., Жупраны, Гняздзілавічы, Вольберавічы ў Ашмянскім пав., Індура ў Гарадзенскім пав., Лунін, Пагост у Навагародскім пав. і інш. У шлюбе з Соф'яй Збароўскай не меў дарослых дзяцей, яго маёнткі перайшлі ў спадчыну да стрыечных братоў Януша і Крыштофа.

**Радзівіл** Ян (мянушка Б а р а д а т ы; каля 1474—1522), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.*Радзівіла* Старога. Намеснік вількійскі ў 1495—1501 і слонімскі з 1505, маршалак гаспадарскі ў 1499—1514 і земскі ў 1514—22, кашталян троцкі ў 1522. Набліжаны да вял. кн. Аляксандра, садзейнічаў яго абранню ў 1501 каралём польскім, падпісаў акт *Мельніцкай уніі 1501*. Падтрымліваў палітыку Аляксандра, скіраваную на адмену мельніцкіх дамоўленасцей. Пасол у Маскву ў 1507 і 1508. Валодаў маёнткамі ў Літве, Нягневічамі ў Навагародскім ваяв., Здзітавам і Лахвай на Берасцейшчыне, Уздой каля Менска, Алыкай на Валыні і інш. У шлюбе з Лізаветай Гаштольд меў 2 дачок і 3 сыноў, у шлюбе з Багданай Лукомскай — 2 дачок, у шлюбе з Ганнай Кішкай — сыноў Мікалая (Чорнага) і Яна.

**Радзівіл** Ян (?—1542), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын канцлера М.*Радзівіла*. У 1516—21 ваяваў супраць Тэўтонскага ордэна. Падчашы ВКЛ з 1517, дзяржаўца маркаўскі ў 1520—34 і васіліцкі з 1523, староста бельскі з 1522 і жамойцкі з 1535. Уваходзіў у склад камісій па размежаванні ВКЛ з Мазовіяй (1529), Прусіяй (1532) і Інфлянтамі (1540—41). У 1530—40-х г. трыумвірат у складзе Р., яго дзядзькі Ю.*Радзівіла* і А.*Гаштольда* фактычна кіраваў ВКЛ у час адсутнасці ў дзяржаве Жыгімонта I Старога. Удзельнічаў у вайне супраць Маскоўскай дзяржавы 1534—37. Валодаў маёнткамі ў Літве і на Падляшшы. У шлюбе з Ганнай Косцевіч меў 3 дачок. З яго смерцю згасла мужчынская лінія Радзівілаў — князёў «на Ганязі і Райгорадзе».

**Радзівіл** Ян (1516—27.9.1551), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын кашталяна троцкага Я.*Радзівіла*. Атрымаў дамашнюю адукацыю, у 1542 падарожнічаў па Італіі. У 1544 як староста тыкоцінскі і крайчы ВКЛ увайшоў у склад Рады ВКЛ. Набліжаны да вял. кн. Жыгімонта Аўгуста, выконваў яго дыпламатычныя даручэнні. Дзякуючы намаганням брата М.*Радзівіла* Чорнага ў 1547 атрымаў тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі «на Алыцы і Нясвіжы». Вызнаваў лютэранства. Меў разам з братам непадзельныя маёнткі ў Літве, а таксама Нягневічы, Котлава, Задзвею, Нясвіж, Лахву ў Навагародскім пав., Дуброву, Узду, Шах у Менскім пав. і інш. У шлюбе з Эльжбетай Гербурт дзяцей не меў, пасля яго смерці маёнткі перайшлі да брата.

**Радзівіл** Ян Мікалай Аляксандр (17.5.1681—20.1.1729), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Д.М.*Радзівіла*. Вучыўся ў Нясвіжы, падарожнічаў па Германіі, Францыі, Іспаніі, Нідэрландах, Аўстрыі. Крайчы ВКЛ у 1699—1706 і 1707—08, кашталян віленскі ў 1706—07, ваявода навагародскі з 1708. Галасаваў за абранне ў 1697 каралём Аўгуста II, якога падтрымліваў у *Паўночнай вайне 1700—21*. З 1697 быў клецкім ардынатам, валодаў таксама Атвержычамі, Чарнаўчыцамі, трымаў Лідскае (1695—1704), Радунскае (з 1703), Юрбарскае і Вярбілаўскае староствы. Пакінуў дзённік за 1704—10 (не надрукаваны). У шлюбе з Генрыкай Даротай Пшэбендоўскай меў дачку, сыноў Марціна Мікалая Караля, Юзафа Альбрэхта Рыгора.

**Радзівіл** Ян Юрый (8.1.1588, мяст. Чарнаўчыцы Берасцейскага ваяв.—18.12.1625), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын М.К.*Радзівіла* Сіроткі. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Нясвіжы, Браневе, Аўгсбургу, падарожнічаў па Германіі, Італіі. Кашталян троцкі з 1613; пасол на сойм 1611, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1616. Падтрымліваў палітыку Жыгімонта III Вазы, неаднаразова быў сенатарам-рэзідэнтам пры каралю. Нясвіжскі ардынат з 1616, валодаў таксама маёнткамі на Украіне. У 1619 выехаў у вял. замежнае падарожжа, наведаў Германію, Бельгію, Англію, Францыю, Іспанію, Італію; у 1621 запісаўся ва ун-т у Падуі, а ў 1625 — у Балонні. Памёр у Кобрыне. У шлюбе з Элеанорай Астрожскай дзяцей не меў, пасля яго смерці Нясвіжская ардынацыя перайшла да брата Альбрыхта Уладзіслава.

**Радзівіл** Януш (21.7.1579, Вільня—6 або 7.11.1620), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын К.*Радзівіла* Перуна. Атрымаў кальвініцкае выхаванне, вучыўся ў Страсбургскім і Базельскім ун-тах, падарожнічаў па Германіі, Чэхіі, Аўстрыі, Венгрыі, Францыі. Падчашы ВКЛ у 1599—1619, кашталян віленскі з 1618, староста барысаўскі. У 1600 ажаніўся з праваслаўнай княжной Соф'яй Алелькаўнай (гл. *Радзівіл* С.), спадчынніцай Слуцкага і Капыльскага княстваў, якія пасля яе смерці (1612) перайшлі ва ўладанне роду Радзівілаў. У 1600—02 у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць шведскіх войск у Інфлянтах, камандуючы коннымі харугвамі. Выбіраўся паслом на соймы 1603, 1605, 1606, дзе ўзначальваў кальвініцкую і праваслаўную групоўкі, адстойваў рэліг. і паліт. правы некатолікаў. Выступаў супраць палітыкі караля Жыгімонта III Вазы, які намагаўся абмежаваць правы некаталіцкай часткі насельніцтва Рэчы Паспалітай. У 1606 разам з ваяводам кракаўскім М.Зэбжыдоўскім узначаліў узброенае выступленне супраць абсалютысцкай палітыкі караля (гл. *Зэбжыдоўскага рокаш 1606—09*). 5.6.1606 абвешчаны маршалкам з'езда ракашан у Любліне, а 10.8.1606 — у Сандаміры. Выдаў універсал з абвінавачваннямі караля ў парушэнні шляхецкіх правоў і свабод. 6.8.1607 каля Гузава (недалёка ад Радама) адбылася бітва з каралеўскімі войскамі, у якой Р. камандаваў левым крылом войска ракашан. Нягледзячы на паражэнне, ракашане вымусілі кара-

ля пайсці на кампраміс: Жыгімонт III адмовіўся ад рэформы ўлады, ад сваіх абсалютысцкіх намераў, а ракашане адмовіліся ад спробы дэтранізаваць караля. Р. выступаў супраць *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. На соймах 1611, 1613, 1615, 1618 адстойваў роўныя правы пратэстантаў і праваслаўных з католікамі. 7.7.1613 у Берліне ажаніўся з Лізаветай Соф'яй Гогенцолерн, дачкой брандэнбургскага курфюрста Іагана Георга; меў з ёй 2 дачок, сыноў Багуслава і Юрыя.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл** Януш (2.12.1612, мяст. Папелі Вількамірскага пав.—31.12. 1655), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын К.*Радзівіла*. Вызнаваў кальвінізм. Вучыўся ў кальвініцкай Слуцкай гімназіі, Лейпцыгскім, Альтдорфскім і Лейдэнскім ун-тах, наведаў Францыю і Англію. У 1633—46 падкаморы ВКЛ. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* удзельнічаў у баях за Смаленск. Пасля шлюбу з Кацярынай Патоцкай (1638) зблізіўся з католікамі, а пасля яе смерці і заключэння шлюбу з Марыяй (1645), дачкой малдаўскага гаспадара *Васіля* Лупу, узмацніліся сувязі Р. з праваслаўнымі ВКЛ. З 1646 польны гетман ВКЛ, адначасова ў 1647—53 генеральны стараста Жамойці. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* у студз. 1649 узначаліў войска ВКЛ для задушэння паўстанняў у Беларусі. У студз.—лют. 1649 узяў Тураў, Мазыр (гл. ў арт. *Мазырскае паўстанне 1649*), схіляў мяшчан Бабруйска здаць горад (гл. *Бабруйска абарона 1649*). У ліп. 1649 заняў Рэчыцу, атрымаў перамогі ў *Лоеўскай бітве 1649* і *Лоеўскай бітве 1651*, 4.8.1651 заняў Кіеў. У сак. 1652 з-за рознагалосся з каралём Р. упершыню ў гісторыі Рэчы Паспалітай сарваў сойм, дaручыўшы свайму прыхільніку выкарыстаць права *ліберум вета*. У 1653 атрымаў пасаду віленскага ваяводы, а ў 1654 — і пасаду вял. гетмана ВКЛ. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Р. 12.8. 1654 нанёс паражэнне пад Шкловам арміі Я.К.Чаркаскага, а 24.8.1654, акружаны пад Шапялевічамі, пацярпеў паражэнне ад А.М.Трубяцкога, сам быў паранены. У студз. 1655 спрабаваў адбіць Магілёў (гл. *Магілёва аблога 1655*). Пасля заняцця рас. войскам улетку 1655 б.ч. Беларусі, а таксама Вільні і Коўна Р. стаў ініцыятарам заключэння *Кейданскай уніі 1655*. Аднак перад падпісаннем дагавора значная частка войска Р. адышла да мяжы з Прусіяй і ўтварыла ў Вярбілаве канфедэрацыю прыхільнікаў уніі з Польшчай і караля Яна II Казіміра. Супраць іх у ліст. 1655 Р. з невял. сваім войскам і шведскімі атрадамі рушыў у паход на Падляшша. Заняў г. Тыкоцін, дзе раптоўна памёр (існуе версія, што быў атручаны). Р. меў багатыя маёнткі, у т.л. Біржы, Кейданы, Віжуны, Папелі і Яшуны ў Літве, Любчу ў Навагародскім пав., Дойліды і Заблудаў у Гарадзенскім пав., Невель у Віцебскім пав., Себеж у Полацкім ваяв., трымаў Камянецкае, Барысаўскае, Мсціслаўскае і інш. стараствы. Адчыняў кальвінскія зборы і школы, фінансаваў пратэстанцкія абшчыны, студэнтаў, што вучыліся ў еўрап. ун-тах. У 1-м шлюбе меў дачку Ганну Марыю, якая выйшла замуж за Б.*Радзівіла* і прынесла яму ў пасаг бацькавы ўладанні. Іл. гл. ў т. 1, с. 21, 404.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłł. Wilno; Witebsk, 1859; Kubala L. Szkice historyczne. Ser. 3. Wojna Moskiewska r. 1654—1655. Warszawa; Kraków, 1910; Wisner H. Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła, 1648—1655 // Rocznik Białostocki. Warszawa, 1976. T. 13; Nagielski M. Janusz Radziwiłł // Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Warszawa, 1995; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзівіл Осцікавіч** (?—1477), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Старэйшы сын баярына Осціка (гл. ў арт. *Осцікавічы*), родапачынальнік роду *Радзівілаў*. У 1420—28 упамінаецца як маршалак гаспадарскі вял. кн. Вітаўта. Як сведка падпісаў акт уніі ВКЛ з Польшчай 15.10.1432. Маршалак земскі (вялікі) у 1433—34 і 1463—74. Пасля гібелі вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча Р.О. падтрымаў абранне на трон Казіміра IV (1440). Хутка атрымаў ад яго пасады маршалка гаспадарскага і дзяржаўцы анікштынскага. У 1441 быў паслом да караля польскага і венгерскага Уладзіслава III з мэтай забяспечыць прызнанне ўлады Казіміра ў ВКЛ. У 1445 удзельнічаў у выправе ў Вял. княства Маскоўскае супраць Дзмітрыя Шамякі, каб дапамагчы маскоўскаму вял. кн. Васілю III аднавіць сваю ўладу. Удзельнічаў у заключэнні мірнага дагавора паміж ВКЛ, Польшчай і Нямецкім ордэнам у Растэнбургу (1448). У 1449 з дапамогай Васіля II паспяхова дзейнічаў супраць мяцежнага кн. *Міхала Жыгімонтавіча*, адваяваў Старадуб, Ноўгарад-Северскі, Радагашч, Поціўль, Бранск. З Кіева войска Р.О. рушыла ў Крым, дзе на трон быў вернуты саюзны ВКЛ хан Хаджы-Гірэй. У 1-й пал. 1450-х г. Р.О. узначаліў магнацкую апазіцыю супраць вял. кн. Казіміра і быў ёй прапанаваны як кандыдат на велікакняжацкі трон. Выехаў за падтрымкай да хана Залатой Арды Сеід-Ахмеда, але той быў разбіты Хаджы-Гірэем, а паранены Р.О. трапіў у палон. У 1455 вярнуўся ў ВКЛ, дзе быў пазбаўлены ўсіх пасад. Пасля адышоў ад апазіцыі, зноў стаў маршалкам земскім, адначасова з 1463 ваявода троцкі і з 1475 кашталян віленскі. Разам з М. і Я. Кезгайламі кіраваў ВКЛ у час адсутнасці ў дзяржаве вял. князя. У 1470-х г. узначальваў дэлегацыі на перагаворах па памежных спрэчках з Псковам і Інфлянцкім ордэнам. Валодаў маёнткамі ў Літве (Біржы, Кейданы, Муснікі, Шырвінты, Упнікі і інш.), Нягневічамі пад Навагародкам, Харашэвічамі пад Слонімам, Бостынем на Піншчыне. Меў дачку Ганну, сына Мікалая (Старога).

***Валерый Пазднякоў.***

**Радзівілаўская крыпта** ў Нясвіжы, родавы некропаль князёў *Радзівілаў* у сутарэннях *Нясвіжскага касцёла Божага Цела*. У пач. 20 ст. налічвалася 102 пахаванні, у канцы 20 ст. —



Да арт. **Радзівілаўская крыпта**. Саркафагі М.К.Радзівіла Сіроткі і яго жонкі Э.Я.Вішнявецкай.



Да арт. **Радзівілаўская крыпта**. Саркафаг К.С.Радзівіла Пане Каханку.

66, з якіх 27 ідэнтыфікаваны. Першыя пахаванні належалі М.К.*Радзівілу* Сіротку (1549—1616), яго жонцы і дзецям; апошняе пахаванне — А.Радзівіла (1885—1935), 16-га нясвіжскага ардыната. Асобнае месца займае труна з нявызначанымі рэшткамі, якія могуць належаць кухару Радзівіла Сіроткі Я.Гермаку або А.Скарульскаму, коштам якога быў створаны арган для Нясвіжскага касцёла (абодва яны падарожнічалі з Радзівілам Сіроткам і ў 1583 былі пасвячоны ў рыцары ордэна Труны Гасподняй). У пач. 20 ст. большасць трун Р.к. была змешчана ў бярозавыя саркафагі. Аналагічныя нясвіжскаму арыстакратычныя некропалі ёсць у Вене (Капуцынергут), каля Мадрыда (Эскарыял), у Кейданах [у кальвінскім зборы знаходзяцца труны К.*Радзівіла* Перуна (1547—1603), Я.Радзівіла (1612—55) і інш.].

*Літ.*: Шышыгіна-Патоцкая К.Я. Скарбы Нясвіжа. Мн., 1993; Кніга жыццяў і хаджэнняў. Мн., 1994; Ад Полацка і Нясвіжа — да Падуі і Венецыі. Мн., 1994; Rimša E. XVII a. Radvilų karstai Kedainiose // Lietuvos istorios metraštis. 1984 metai. Vilnius, 1985; Mackiewicz S. Dom Radziwiłłów. Warszawa, 1990; Ciechanowiecki A.S. Nieśwież: międzynarodowy ośrodek kultury na Białorusi (od XVI do XX w.). Warszawa, 1994.

***Анатоль Цітоў.***

**Радзівілаўскі летапіс**, Кёнігсбергскі летапіс, помнік старажытнарускага летапісання, летапісны звод пач. 13 ст., зместам блізкі да Лаўрэнцьеўскага летапісу. Складаецца з «Аповесці мінулых гадоў» і летапісу за 1112—1206, прысвечанага пераважна гісторыі Паўн.-Усх. Русі. Вядомы адзіны ілюстраваны спіс канца 15 ст. (зроблены, напэўна, у Смаленску), у канцы якога змешчана «Хаджэнне Данііла ігумена». У 16—1-й пал. 17 ст. рукапіс зберагаўся ў Беларусі, пра што сведчаць розныя прыватныя запісы на старабел. мове. Апошні ўладальнік Р.л. Б.*Радзівіл* завяшчаў яго Каралявецкай (Кёнігсбергскай) б-цы, куды рукапіс трапіў у 1671. У 1758 вывезены ў Расію. У летапісе шмат каштоўных звестак з гісторыі ўсх. славян эпохі ранняга сярэдневякоўя, якія за 9—11 ст. пададзены паводле летапісу Нестара, за 12 ст. — уладзімірскага летапіснага зводу пач. 13 ст. Вялікую культ.-гіст. каштоўнасць маюць тэматычна звязаныя з тэкстам 617 каляровых мініяцюр, якія адлюстроўваюць розныя бакі жыцця (ваен. паходы і бітвы, паўстанні, нар. святы і абрады, паліт. дзейнасць князёў, розныя сцэны з выявамі помнікаў архітэктуры), матэрыяльную культуру ўсх. славян (прадметы побыту, мэблю, адзенне, зброю і інш.), з'яўляюцца своеасаблівым мастацкім летапісам сярэдневякоўя. Шэраг мініяцюр звязаны з гісторыяй бел. зямель: «Рагнеда і Рагвалод», «Бітва на Нямізе», пра паланенне і вызваленне Усяслава Полацкага і інш. Паводле меркаванняў розных даследчыкаў, ілюстравалі летапіс 2—3, магчыма, 5 мастакоў. У некаторых мініяцюрах адчуваецца ўплыў зах.-еўрапейскіх традыцый. Рукапіс зберагаецца ў б-цы Рас. АН у С.-Пецярбургу.



1-я старонка **Радзівілаўскага летапісу**.



Разварот **Радзівілаўскага летапісу** з мініяцюрамі.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 38. Радзивилловская летопись. Л., 1989; Радзивилловская летопись: Факс. воспр. рукописи: Текст. Исслед. Описание миниатюр. СПб.; М., 1994.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Радзівілімонтаўскі палац**. Пабудаваны ў 1780—83 (архітэктар К.Спампані) у в. Радзівілімонты каля Клецка (цяпер в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на) у стылі класіцызму. У 1909 адбудаваны пасля пажару. Выцягнуты (даўжыня 70 м) муравана-драўляны прамавугольны ў плане 1-павярховы будынак з павышаным (з антрэсольным паверхам) аб'ёмам у цэнтры, перпендыкулярным да асноўнага. Цэнтр. аб'ём з боку гал. фасада меў драўляны 4-калонны порцік з белай і цёмна-чырвонай афарбоўкай архітэктурных элементаў. У цэнтр. частцы размяшчаўся вестыбюль і гал. зала, якая паўратондай выступала ў бок парку. Падобная паўратонда, дзе размяшчаўся зімовы сад, завяршала правае крыло палаца. Сцены бакавых крылаў мелі дубовую шалёўку, апрацаваную пад каменны руст. Планіроўка правага крыла анфіладная, левага — калідорная. Інтэр'еры гасцінай, сталовай, кабінетаў, парадных і жылых пакояў мелі багатае аздабленне (калоны абліцаваны штучным мармурам, разныя панелі).



**Радзівілімонтаўскі палац**.
Фота 20 ст.

*Уладзімір Чантурыя.*

**Радзівілы**, найбуйнейшы магнацкі род герба «Трубы» («Тромбы») у ВКЛ, прадстаўнікі якога ў 15—18 ст. займалі вышэйшыя дзяржаўныя, адміністрацыйныя і вайсковыя пасады; буйныя землеўладальнікі. Паходзяць з літ. баярства. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18—пач. 20 ст. ўваходзілі ў склад арыстакратыі Расіі, Прусіі і Аўстрыі, валодалі маёнткамі ў Францыі, Італіі. У сярэдзіне 16—1-й пал. 18 ст. Р. займалі 1-е месца сярод магнатаў ВКЛ па эканам. і паліт. значэнні. Ужо ў 2-й пал. 16 ст. яны валодалі на Беларусі гарадамі і мястэчкамі з іх наваколлямі: Геранёны, Давыд-Гарадок, Клецк, Койданава, Копысь, Лахва, Мір, Нясвіж, Чарнаўчыцы, Шчучын, мноствам вёсак; на Украіне — г. Алыкай з дзесяткамі вёсак (Валынскае ваяв.); у Польшчы — г. Шыдловец з вёскамі (Сандамірскае ваяв.), у Літве — Біржамі, Дубінкамі (Віленскае ваяв.), Кейданамі (Жамойць) і інш. Пэўны час у 15—16 ст. адна з галін роду Р. мела маёнткі з г. Ганязь і Райгорад на Падляшшы. У 17—18 ст. у Р. было шмат інш. маёнткаў. У 1612 да Р. перайшло Слуцкае княства з г. Слуцк і Капыль. Акрамя гэтых уласных спадчынных маёнткаў Р. рэгулярна атрымлівалі ў пажыццёвае карыстанне дзярж. маёнткі (староствы) разам з пасадамі старастаў: Ашмяны, Барысаў, Берасце, Крычаў, Ліда, Мазыр і інш. У 1586 паміж братамі Мікалаем Крыштофам, Альбрыхтам і Станіславам з нясвіжскай лініі Р. было заключана пагадненне пра стварэнне Нясвіжскай, Клецкай і Алыцкай ардынацый (непадзельных уласных маёнткаў, што перадаваліся ў спадчыну толькі па мужчынскай лініі, пасля — толькі старэйшаму сыну). Іншыя маёнткі Р. знаходзіліся на алаідальным праве (маглі перадавацца ў спадчыну жанчынам, свабодна адчужацца). У 19 ст. створана Давыд-Гарадоцкая ардынацыя. У 16—18 ст. Р. мелі свае войска са шляхты і ваенна-служылых людзей — зямян, выбранцаў, баяр і татараў, якія атрымлівалі за службу зямлю «навечна». Р. мелі свае крэпасці — Нясвіж, Біржы, Кейданы, Мір, Любчу і інш. — з гарнізонамі. У 1528 у маёнтках Р. налічвалася 18 240 дымоў, яны ставілі ў войска ВКЛ 760 коннікаў, у 1567 ад 28 170 дымоў выстаўлялі 939 коннікаў і 1586 пехацінцаў. У сярэдзіне 18 ст. Р. заснавалі кадэцкія корпусы ў Слуцку і Нясвіжы. Войска Г.Ф.Радзівіла налічвала 6 тыс. чал. (столькі ж мела ўся армія ВКЛ). Р. адыгрывалі значную ролю ў культурным і рэлігійным жыцці. У 16—17 ст. частка з іх перайшла ў кальвінізм і кіравала пратэстанцкай супольнасцю краіны. Большасць Р. засталіся каталікамі. У сваіх гарадах і маёнтках адкрывалі школы і друкарні, збіралі архівы (гл. *Архівы Радзівілаў*), б-кі (гл. *Бібліятэкі Радзівілаў*), вядомы як мецэнаты і кампазітары (гл. *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў, Слуцкі тэатр Радзівіла*), заснавальнікі мануфактур (у т.л. *Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў*). У сваіх уладаннях Р. трымаліся як удзельныя князі. У радаводах да аднолькавых імён дадавалі парадкавыя нумары і мянушкі, як у пануючых еўрапейскіх дынастыях. Заснавальнік роду *Радзівіл Осцікавіч* (?—1477), сын віленскага кашталяна Осціка (гл. ў арт. *Осцікавічы*). Сын Радзівіла Осцікавіча Мікалай Стары (?—1509) меў 4 сыноў, ад якіх пайшлі 3 галіны роду. Старэйшы сын Мікалай (каля 1470—1521) атрымаў 25.2.1518 тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі, які ў тым жа годзе зацверджаны ў ВКЛ; яго лінія ў мужчынскім родзе згасла ў 1542. 2-і сын Мікалая Старога Ян (1474—1522) стаў пачынальнікам сярэдняй, нясвіжска-алыцкай галіны роду. Яго сын Мікалай Чорны (1515—65) 10.12.1547 атрымаў імперскі княжацкі тытул для сябе і інш. прадстаўнікоў роду (зацверджаны ў ВКЛ у 1549); меў 4 сыноў, 3 з якіх заснавалі асобныя лініі гэтай галіны. Мікалай Крыштоф Сіротка (1549—1616) — заснавальнік нясвіжскай лініі, якая ў старэйшым адгалінаванні згасла ў 1813 са смерцю нясвіжскага ар-



Герб **Радзівілаў** з прывілея
на княжацкі тытул 1547.



дыната Дамініка Гераніма, а ў малодшых працягваецца і цяпер. Лінія 1-га клецкага ардыната Альбрыхта (1558—92) згасла са смерцю Станіслава Казіміра (1648—90), і Клецкая ардынацыя перайшла ў нясвіжскую лінію да канцлера Дамініка Мікалая (1648 або 1653—97), ад якога паходзілі нясвіжскія ардынаты з 1814. Малодшы сын Мікалая Чорнага Станіслаў (1559—99) стаў 1-м алыцкім ардынатам. Лінія згасла са смерцю яго малодшага сына Альбрыхта Станіслава (1593—1656), і Алыцкая ардынацыя перайшла да нясвіжскай лініі. Ад 4-га сына Мікалая Старога Юрыя (1480—1541) пачалася біржанска-дубінкаўская галіна роду Р., якая скончылася ў мужчынскай лініі са смерцю Багуслава (1620—69), а ў жаночай — Людвікі Караліны (1667—95). Уладанні гэтай галіны пасля 50-гадовага ўладання імі нойбургскай (пфальцкай) лініі баварскага дома Вітэльсбахаў (гл. *«Нойбургскія маёнткі»*) таксама перайшлі да нясвіжскай. Са смерцю ў 1813 Дамініка Гераніма, апошняга прадстаўніка гал. нясвіжскай галіны Р., яго шматлікія маёнткі былі перададзены сваякам: ардынацыі — Антонію Генрыку (1775—1833), алаідальныя маёнткі — дачцэ Стафаніі (1809—32), якую імператар выдаў замуж за сына генерал-фельдмаршала П.Х.Вітгенштэйна Льва. Княжацкі тытул Р. у Рас. імперыі быў зацверджаны ў 1845 і 1899, у Прусіі — у 1859 і 1861 (з тытулам «светласць»), у Аўстрыі — у 1784, 1882 і 1905 (з тытулам «светласць»). Род Р. быў у сваяцтве з арыстакратычнымі сем'ямі Еўропы, пануючымі дамамі Прусіі, Ангальта, Нойбурга, Курляндыі, Малдовы. Прадстаўнікі роду жывуць у Польшчы, Францыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе і інш. краінах. Пра найб. значных прадстаўнікоў роду Р. гл. асобныя артыкулы.

*Літ.*: Kotłubaj E. Galerja Nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857; Dunin-Borkowski J. Almanach błękitny: Genealogia żyjących rodów polskich. Lwów, 1908; Bartoszewicz K. Radziwiłłowie. Warszawa; Kraków, 1928; Borowski E. Genealogia niektórych polskich rodzin utytułowanych. Ser. 1. Buenos-Aires; Paryż, 1964; Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki: W kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. Poznań, 1965; Malczewska M. Latyfundium Radziwiłłów w XV do połowy XVI w. Warszawa; Poznań, 1985; Polski słownik biograficzny. T. 30. Wrocław etc., 1987; Miscellanea historico-archivistica. T. 3, 7. Warszawa; Łódź, 1989, 1997; Mackiewicz S. Dom Radziwiłłów. Warszawa, 1990; Канановіч У. Клецкія Радзівілы // Бел. мінуўшчына. 1994. № 3; Aleksandrowicz-Szmulikowska M. Radziwiłłówny w świetle swoich testamentów: Przyczynek do badań mentalności magnackiej XVI—XVII w. Warszawa, 1995; Badania księgozbiorów Radziwiłłów. Warszawa; Łódź, 1995; Chachaj M. Zagraniczna edukacja Radziwiłłów od początku XVI do połowy XVII w. Lublin, 1995; Radziwiłłowie herbu Trąby. Warszawa, 1996; Degiel R. Protestanci i prawosławni: Patronat wyznaniowy Radziwiłłów birżańskich nad Cerkwią prawosławną w księstwie słuckim w XVII w. Warszawa, 2000; Siedziby Kiszków i Radzwiłłów na Białorusi w XVI—XVIII wieku: Opisy z zasobu Archiwum Głównego Akt Dawnych / Oprac. J.Zawadzki. Warszawa, 2002; Нясвіжскія зборы Радзівілаў: Іх фарміраванне, гістарычны лёс, цяперашняе месцазнаходжанне і шляхі выкарыстання. Мн., 2002. (Вяртанне. Вып. 7); Шышыгіна-Патоцкая К.Я. Нясвіж і Радзівілы. 2 выд. Мн., 2002; Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Радзімінскія**, гл. *Францкевічы-Радзімінскія.*

**Радноцкі дагавор 1656**, пакт, заключаны 6 снеж. ў час *Паўночнай вайны 1655—60* у г. Раднот у Трансільваніі (цяпер Ернут, Румынія) паміж Швецыяй і Трансільваніяй (ускосна ўлічваліся інтарэсы іх саюзнікаў па антыкаталіцкай лізе — Брандэнбургска-Прускага курфюрства, казацкай дзяржавы гетмана Б.Хмяльніцкага, кальвіністскай партыі Радзівілаў у ВКЛ), які зафіксаваў умовы меркаванага будучага падзелу Рэчы Паспалітай. Р.д. меў выразна антыкаталіцкую ідэалагічную накіраванасць і прадугледжваў поўнае знікненне Рэчы Паспалітай з паліт. карты Еўропы. Паводле Р.д., які быў рэакцыяй на *Віленскае перамір'е 1656* паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай і Венскі трактат паміж Польшчай і імперыяй Габсбургаў (1.12.1656). Меркавалася, што тытул польскага караля разам з Малой Польшчай, большай часткай Мазоўша, Валынню, Галічынай, Падоллем дастанецца трансільванскаму князю Дзьёрдзю II Ракацы. Падзел Падляшша паміж хаўруснікамі выклікаў спрэчкі, але вырашэнне іх адклалі на больш позні час. Астатняя частка Польскага каралеўства (за выключэннем некаторых зах.-польскіх зямель, на якія прэтэндаваў стрыечны брат Б.*Радзівіла* брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых Вільгельм) павінна была адысці да шведскага караля Карла X Густава разам з Курляндыяй. Паводле Р.д. ад ВКЛ да Швецыі адыходзілі Жамойць, Браслаўскі, Упіцкі, Вількамірскі і Ковенскі пав., Інфлянты, а таксама часткі Полацкага ваяв. і Віцебскага пав. (уздоўж Дзвіны), важныя для гандлю шведскай Рыгі. Трансільванія атрымлівала Берасцейскае ваяв. Р.д. прадугледжваў стварэнне асобнага незалежнага спадчыннага княства для Радзівіла (у той час знаходзіўся ў прускім Караляўцы), куды павінна было ўвайсці разам са спадчынным Слуцкім княствам Радзівілаў усё Навагародскае ваяв. і інш. уладанні Радзівілаў (у т.л. Сялец, Старое Сяло і Венграў). Статус цэнтр. і паўд.-ўсх. часткі ВКЛ, якія былі заняты войскамі Рас. дзяржавы і Хмяльніцкага, у пакце не ўзгадняўся.

Прадстаўнік Радзівіла Ян Мяжэнскі апратэстоўваў такія ўмовы падзелу, апелюючы да *Кейданскай уніі 1655*, і патрабаваў, каб у склад меркаванага дзярж. ўтварэння Радзівіла ўвайшлі апрача Навагародчыны таксама Падляшша і Берасцейшчына. Насуперак умовам Р.д. шведы сепаратна часткова згадзіліся з гэтымі патрабаваннямі, хаця і не збіраліся іх выконваць. Рэалізуючы Р.д., 16.5.1657 шведска-трансільванска-казацкае войска на чале са шведскім каралём Карлам X Густавам, князем Трансільваніі Дзьёрдзем II Ракацы і наказным казацкім гетманам Антонам Ждановічам прымусіла моцную залогу Берасця да капітуляцыі. У аперацыі брала ўдзел брыгада Радзівіла на чале з палкоўнікам Эберхардам Путкамерам. У Берасці бакі ратыфікавалі Р.д., і як вынік горад быў перададзены Швецыяй Трансільваніі. У горадзе быў пакінуты венгерскі гарнізон на чале з губернатарам Андрашам Гаўдзі. Гэты крок выклікаў рэзкія пратэсты Радзівіла. Ён 4.7.1657 паслаў Карлу X Густаву ліст з просьбай загадаць Гаўдзі перадаць горад і наваколле прыхільнікам Радзівіла, а таксама накіраваць яго брыгаду і дапаможныя шведскія атрады да Слуцка (прыватнага горада Радзівілаў), каб дапамагчы авалодаць усім Навагародскім ваяв. Перадачай Берасця Трансільваніі быў незадаволе-



ны таксама гетман Хмяльніцкі, які разлічваў на тэрытарыяльныя набыткі на З Украіны і ПдЗ Беларусі. У выніку 24.5.1657 паводле загаду Хмяльніцкага Ждановіч прыняў пад пратэкцыю Украіны значную частку Берасцейшчыны (Пінскі пав.).

Змяненне знешнепаліт. абставін (паражэнне Трансільваніі ад Рэчы Паспалітай, напад Даніі на Швецыю, смерць Хмяльніцкага і інш.) прывяло да таго, што Р.д. так і не быў цалкам рэалізаваны, а створаны ім хаўрус распаўся. Аднак шмат у якіх аспектах Р.д. стаў прататыпам будучых падзелаў Рэчы Паспалітай: зачэпкай для іх таксама была абарона дысідэнтаў (некатолікаў) з боку суседніх дзяржаў, а лініі падзелаў у пэўнай ступені супадалі з тымі, што абмяркоўваліся ў Радноце.

*Публ.*: Szilágyi S. Erdély és az északkeleti háboru, levelek és okiratok. Transsylvania et bellum boreo-orientale: Acta et documenta. Vol. 2. Budapest, 1891. S. 191—196.

*Літ.*: Белы А. Невядомыя эпізоды «невядомае вайны», або Ваенныя дзеяньні Швэцыі супраць ВКЛ у 1656—1657 гг. вачыма Эрыка Дальбэрга // Спадчына. 1999. № 3.

***Алесь Белы, Андрэй Катлярчук.***

**Радунскі замак**, вялікакняжацкі замак у 14—17 ст. Яго рэшткі знаходзяцца на ўзвышшы сярод забалочанай мясцовасці на беразе р. Радунька ў цэнтры в. Гарадзішча Воранаўскага р-на (за 2 км ад г.п. Радунь). Пляцоўка чатырохвугольная ў плане, памерам 85 х 60 м, узвышаецца на 8 м над далінай ракі, умацавана валам вышынёй 3—5 м і абкружана ровам глыбінёй 2,5—3 м і шырынёй 6—8 м. У паўд.-ўсх. вугле быў уваход. Аснову замкавай абароны складаў комплекс драўляна-земляных умацаванняў — вал, сцены-гародні, вежы. Перад уязной вежай-брамай быў мост з пад'ёмным пралётам — «узводам». Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены кераміка 14—17 ст., палівавая і тэракотавая кафля, жалезныя наканечнікі дзідаў, сякера, манеты 15—17 ст. і інш.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962; Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Мн., 1971; Поболь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Мн., 1979.

**радца**, райца, член адміністрацыйнага органа гарадскога самакіравання (*рады, магістрата*) у ВКЛ у 14—18 ст., выбраны або прызначаны ад багатых гараджан. У раду ўваходзілі 6—24 Р. Напр., у Полацку спачатку было 20 Р., з 1511 — 24, у Менску — 12, у Навагародку — 6. Са свайго складу Р. выбіралі *бурмістраў*, былі іх дарадчыкамі. Выбіраліся на год, у прыватнаўласніцкіх гарадах пажыццёва; вызваляліся ад гар. падаткаў. У сваёй дзейнасці кіраваліся нормамі *магдэбургскага права*, а таксама мясц. права, якія ўваходзілі ў Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588. Пасля прыняцця закона ад 17.4.1791 «Гарады нашы каралеўскія вольныя ў дзяржавах Рэчы Паспалітай» у гар. магістраты маглі выбірацца не толькі мяшчане, але і шляхта, якая мела нерухомую маёмасць у горадзе.

***Язэп Юхо.***

**Разанскае вялікае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Цэнтр — г. Разань на р. Ака (за 50 км на ПдУ ад сучаснай Разані). Узнікла ў 1129. Займала тэрыторыю па абодвух баках Акі ў яе сярэднім цячэнні і вярхоўі Дона. Пасля мангольскага нашэсця разанская тэрыторыя значна павялічылася за кошт чарнігаўскіх зямель па р. Протва і яе прытоку Лужы. У 1180-х г. ад Разані адасобіўся Пронскі ўдзел (з перапынкамі існаваў да 1483). Мангольскае нашэсце на Русь, якое пачалося ў снеж. 1237 з разанскіх зямель, прывяло да моцнага спусташэння Р.в.к. Нягледзячы на зруйнаванне, сталіцай княства да 2-й пал. 14 ст. была Разань, пасля — г. Пераяслаў-Разанскі (з 1778 называецца Разань). У пач. 14 ст. пачалося супрацьстаянне Р.в.к. з Масквой. Паводле дагавора 1381 граніца паміж вял. княствамі Разанскім і Маскоўскім устаноўлена па р. Ака. Новы росквіт Р.в.к. зведала пры князю Алегу Іванавічу (1350—1402). У 1370 разанскае войска ў складзе маскоўскага выступіла супраць Альгерда. У 1395 князь Алег Іванавіч разам з князем Юрыем, а таксама князямі казельскім, пронскім і мурамскім ваяваў тэрыторыю ВКЛ. У 1395—96 вял. князь літоўскі Вітаўт у адказ спустошыў Р.в.к. Аслабленне ВКЛ пасля бітвы на Ворскле 1399 было выкарыстана разанскімі князямі. У 1401 Алег Іванавіч ваяваў Смаленск, у 1402 яго сын Радаслаў хадзіў паходам на Бранск. Алег Іванавіч значна пашырыў межы свайго ўплыву. У васальнай залежнасці ад яго ў канцы 14—пач. 15 ст. знаходзіліся ялецкія і казельскія князі. Раёнам разанскіх дамаганняў былі Тула і Мцэнск. Пасля смерці Алега Іванавіча Разань рэдка выходзіла з саюза, а потым і падпарадкавання Маскве. Пасля паездкі Вітаўта ў вярхоўя р. Акі (1427) Разанскае і Пронскае княствы на кароткі час апынуліся ў сферы ўплыву ВКЛ. Паводле літоўска-разанскага дагавора каля 1430 разанскі кн. Іван Фёдаравіч абавязаўся «служыць верна» Вітаўту і не заключаць без яго ведама дагавораў. У 1430 на з'ездзе манархаў у Троках прысутнічаў і разанскі князь. У сярэдзіне 15 ст. ў Р.в.к. ўпершыню з'явіўся маскоўскі намеснік, пасля — з 1512. Пасля таго як маскоўскаму вял. князю Івану III стала вядома аб кантактах разанскага кн. Івана Іванавіча з крымскім ханам, яго выклікалі ў Маскву і адправілі ў турму (1516). Скарыстаўшы набег на Маскву ў 1521 хана Мухамед-Гірэя, Іван Іванавіч збег у ВКЛ. Там ён атрымаў у пажыццёвае валоданне мяст. Стаклішкі, дзе і памёр у 1534. Такім чынам, у 1521 Р.в.к. было канчаткова скасавана. Яшчэ ў 1483 у ВКЛ ад'ехаў пронскі кн. Юрый Фёдаравіч; Пронскае княства было далучана да Разанскага. Частка князёў *Пронскіх* з пач. 16 ст. на маскоўскай службе, інш. галіна — у ВКЛ (згасла каля 1638).

*Літ.*: Иловайский Д.И. История Рязанского княжества. М, 1858; Монгайт А.Л. Рязанская земля. М., 1961; Кузьмин А.Г. Рязанское летописание: Сведения летописей о Рязани и Муроме до середины XVI в. М., 1965.

***Віктар Цемушаў.***

**Раізій** (Руіс дэ Морас) Пётр (Педра; Roizjusz, Roiz de Moros; каля 1505, г. Альканіс, Іспанія—26.4.1571), прававед, паэт. Д-р абодвух правоў (1538 або 1539). Вучыўся ва ун-тах Лерыды, Балонні, Падуі, Рыма, магчыма, у Венецыі і Фларэнцыі. Прыняў духоўны сан. З 1542 выкладаў рымскае права ў Кракаўскім ун-це. З 1549 каралеўскі дваранін і дарадчык. З 1551 займаў высокую пасаду аўдытара ў задворным асэсарскім судзе ВКЛ у Вільні, які разглядаў судовыя справы дзярж. católicos гарадоў. Адначасова з 1556 пробашч у Крожах, канонік медніцкі. Па даручэнні жамойцкага біскупа Я.Даманоўскага ў 1561—62 апрацаваў статут Жамойцкага біскупства. Пасля



смерці Даманоўскага (1563) уключаны замест яго ў камісію па складанні Статута ВКЛ 1566. На аснове практычнага вопыту напісаў «Заключэнні ... аб справах, што слухаліся на судовых пасяджэннях у Літве» («Decisiones ... de rebus in sacro auditorio Lithuanico...», Кракаў, 1563; Франкфурт-на-Майне, 1570; Венецыя, 1572), дзе разгледзеў розныя юрыдычныя пытанні, якія вырашаў на аснове рымскага права. Ва ўступе-прысвячэнні вял. кн. Жыгімонту II Аўгусту выклаў свае погляды на ролю права ў жыцці асобы, грамадства і дзяржавы. Кніга зрабіла значны ўплыў на судовую практыку і заканадаўства ВКЛ, яе высока ставіў А.*Ратундус*. У 1560-х г. атрымаў годнасць апостальскага протанатарыуса і папскага двараніна, з 1567 архіпрэсвітэр Віленскага касцёла св. Яна і канонік віленскі, з 1569 кусташ віленскі. Узначальваў пры касцёле св. Яна школу, дзе, на думку некаторых даследчыкаў, увёў выкладанне рымскага права, права ВКЛ, грэчаскай мовы. Зрабіў значны ўклад у развіццё права і культуры ВКЛ. Карыстаўся высокім аўтарытэтам у сучаснікаў, хоць шляхта не шанавала рымскае права, бо бачыла ў ім пагрозу сваім прывілеям. Навукоўцы лічаць Р. стваральнікам школы права ў ВКЛ. Быў заўзятым каталікам, выступаў за судовае пакаранне пратэстантаў. Аўтар шматлікіх акалічнасных вершаў (у т.л. на заключэнне Люблінскай уніі 1569, шлюб Жыгімонта II Аўгуста з Барбарай Радзівіл, адкрыццё Віленскага езуіцкага калегіума). Выступаў за спадчыннасць трона, крытыкаваў сац. адносіны ў ВКЛ, п'янства шляхты.

*Тв.*: Carmina. P. 1—2. Kraków, 1900.

*Літ.*: Kruczkiewicz B. Royzyusz: Jego żywot i pisma. Kraków, 1897.

***Валерый Пазднякоў.***

**райца**, гл. *Радца*.

**ракако** (ад франц. rococo мудрагелісты), стыль у еўрапейскай архітэктуры і мастацтве 18 ст. Узнік і найб. развіўся ў Францыі (т.зв. стыль Людовіка XV), як камерны ў процівагу пышнаму каралеўскаму стылю ранейшага перыяду, потым пашырыўся ў інш. краінах Еўропы. Назва ўзнікла ў 1796—97 і спачатку мела жартоўна-іранічны характар. За тэарэтычную аснову Р. прынята канцэпцыя, распрацаваная ў 1867 нямецкім вучоным А.Шпрынгерам. Эстэтычныя каштоўнасці Р. грунтуюцца на адрозных ад класічных ідэальных уяўленняў аб прыгажосці. Прыгажосць апасродкавана выяўляецца ў формах зграбнасці, далікатнай кволасці субстанцыі, абаяння, грацыі. Стылістычная асаблівасць Р. — перавага дэкаратыўнасці над інш. аспектамі мастацтва. Архітэктура Р., знешне захаваўшы крывалінейныя абрысы будынкаў стылю *барока*, страціла манументальнасць і дынамічнасць, увагу да распрацоўкі фасадаў. Пераважалі невял. па памерах пабудовы, асн. мастацкі акцэнт у якіх прыпадаў на дэкор інтэр'ераў, іх камфорт і ўтульнасць. У аздабленні былі пашыраны стукавая (алебастравая) лепка, драўляная разьба з пазалотай, жывапісныя пано, габелены, мэбля выцягнутых лёгкіх форм, абівачныя тканіны светлых тонаў. Творы выяўленчага мастацтва вызначаліся вытанчанасцю формы, сентыментальным, часта эратычным ладам. У жывапісе пашырылася адлюстраванне галантных і фрывольных сцэн, рэальных або ідэальных пейзажных матываў. Папулярнасць набылі вырабы з фарфору, бронзы з гравіроўкай. У арнаменце пераважалі матывы ракавін і складаныя раслінныя ўзоры. Найб. яскрава рысы Р. выявіліся ў творчасці архітэктараў Мейсанье (Францыя), М.Д.Пёпельмана, Г.В. фон Кнобельсдорфа (Германія), жывапісцаў Ж.А.Вато, Ф.Бушэ, Ж.А.Фаганара, Ж.Э.Ліятара (Францыя), Дж.Б.Цьепала, Дж.А.Каналета (Італія), скульптара Э.М.Фальканэ (Францыя) і інш.

У ВКЛ стыль Р. вядомы з 2-й пал. 18 ст. ў сімбіёзе з познім барока (некаторыя даследчыкі вызначаюць і як самастойную плынь). Выкарыстоўваўся як сістэма дэкарыроўкі інтэр'ераў і ў перабудове сярэдневяковых храмаў. Элементы Р. можна прасачыць у архітэктуры *віленскага барока*, у аздабленні інтэр'ераў культавых пабудоў у Гародні, мяст. Вішнева і Жодзішкі Ашмянскага пав., мяст. Ішчална Лідскага пав., Нясвіжа, Пінска, Слоніма і інш. (разьба і стукавая лепка алтароў, амбонаў, арганных перспектыў, царскіх варот, чаканка абкладаў абразоў і інш.). Рысы Р. маюць манументальныя цыклы размалёвак касцёлаў Нясвіжскага Божага Цела (1751—53, мастак Ф.К.Д.Гескі) і Магілёўскага кармеліцкага (1765—67, мастак Ю.Догель), а таксама вырабы шпалерных, гутных, фарфоравых мануфактур Радзівілаў у Слуцку, Карэлічах, Нясвіжы, Урэччы, Налібаках і інш. Найб. значнымі ўзорамі Р. з'яўляюцца 2 інкруставаныя драўляныя спавядальні Гарадзенскага езуіцкага касцёла (1760-я г.) работы І.Майльфельта.

*Літ.*: Rokoko: Studia nad sztuką 1 połowy XVIII w. Warszawa, 1970; Малая история искусств: Искусство XVIII в. М., 1977; Моран А. де. История декоративно-прикладного искусства: Пер. с фр. М., 1982. С. 365—399; Кулагин А.Н. Архитектура и искусство рококо в Белоруссии. Мн., 1989; Яго ж. Шэдэўры архітэктуры ракако: Гіст.-архіт. нарыс. Мн., 1991.

***Вольга Бажэнава.***

**Раман** (каля 1299—канец 1362), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ, мітрапаліт літоўскі. Паходзіў з цвярскога баярства, сваяк цвярскога кн. Усевалада Аляксандравіча і жонкі вял. князя літоўскага Альгерда цвярской княжны Ульяны Аляксандраўны. Быў стаўленікам Альгерда, які выступаў за перанос з Масквы ў ВКЛ рэзідэнцыі мітрапалітаў кіеўскіх і ўсяе Русі. Візантыйскі гісторык Мікіфар Грыгара паведамляе, што пасля смерці мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Феагноста (1353) вучоны іераманах Р. прыбыў у Канстанцінопаль раней за маскоўскага прэтэндэнта на мітрапаліцкі пасад Аляксея і быў пасвячоны як мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (1354). За гэта, а таксама за перанясенне кафедры мітрапалітаў з Уладзіміра ў Кіеў Альгерд абяцаў патрыярху і візантыйскаму імператару прыняць праваслаўе. Аднак хутка ў Канстанцінопаль прыбыў Аляксей і таксама дамогся ад патрыярха і імператара годнасці мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі, у выніку чаго рус. правасл. царква апынулася падзеленай. Гэтым тлумачылася адмова Альгерда прыняць хрысціянства. Паводле інш. версіі, пасвячэнне ў мітрапаліты атрымаў спачатку Аляксей, а праз некалькі месяцаў — Р., які стаў мітрапалітам літоўскім. На Русі разгарэлася вострае саперніцтва паміж абодвума мітрапалітамі, што было адбіткам узброенага супрацьстаяння Вільні і Масквы. У 1355 Р. і Аляксей зноў прыбылі ў Канстанцінопаль, дзе Р. у дадатак да Полацкай і Тураўскай епархій з кафедрай у Навагародку атрымаў епархіі Малой Русі (ві-



даць, Уладзімірскую, Луцкую і Холмскую). З узброенай дапамогай Альгерда ў 1356 Р. устанавіў царк. уладу над Кіевам, а пасля захопу Альгердам Бранскага княства падначаліў Бранскую (Чарнігаўскую) епархію. У 1360 беспаспяхова намагаўся падпарадкаваць Цвярскую епархію, для чаго асабіста прыбыў у Цвер. У 1361 канстанцінопальскі патрыярх зноў прызнаў Кіеўскую і Бранскую епархіі за Аляксеем. Пасля смерці Р. Аляксей фактычна стаў агульнарус. мітрапалітам, аднак юрыдычна Літ. мітраполія не была скасавана.

*Літ.*: Тихомиров Н.Д. Галицкая митрополия: Церковно-историческое исследование. СПб., 1896; Лихачев Н.П. Два митрополита // Сб. статей в честь Д.Ф.Кобеко. СПб., 1913; Meyendorff J. Alexis and Roman: A Study in Byzantino-Russian Relations (1352—1354) // Byzantinoslavica. 1967. R. 27. № 2; Голубинский Е. История русской церкви. Т. 2, 1-я пол. М., 1997.

*Валерый Пазднякоў.*

**Раман Данілавіч** (каля 1230—1258?), князь навагародскі ў 1250-х г. Сын галіцка-валынскага кн. *Данілы Раманавіча*. Дапамагаў бацьку ў вайсковай і дыпламатычнай дзейнасці. Вызначыўся ў баях з мангола-татарамі, удзельнічаў у паходах на яцвягаў. У 1252 ажаніўся з герцагіняй Гертрудай, пляменніцай і спадкаемніцай апошняга аўстрыйскага герцага з дынастыі Бабенбергаў Фрыдрыха II, але ў барацьбе за аўстрыйскі трон пацярпеў паражэнне і пакінуў Аўстрыю. Паводле дагавора, заключанага каля 1255 Данілам Раманавічам з *Міндоўгам* пры пасрэдніцтве яго сына *Войшалка*, Р.Д. атрымаў ад літ. князёў Навагародскае княства з гарадамі Навагародак, Слонім, Ваўкавыск як знак іх залежнасці і тады ж ажаніўся з Аленай, дачкой ваўкавыскага кн. *Глеба*. У адказ на паход галіцка-валынскіх і мангола-татарскіх войск на літ. уладанні Войшалк і *Таўцівіл* у 1258 адбілі Навагародак, захапілі Р.Д. ў палон і, відаць, забілі. Існуе меркаванне, што сынам Р.Д. быў слонімскі кн. Васілька.

*Літ.*: Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Ермаловіч М. Старыжытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 320—322; Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 3. Київ, 1993.

*Валерый Пазднякоў.*

**рамеснікі**, непасрэдныя вытворцы пэўных вырабаў з дапамогай уласных прылад працы. Засяроджваліся пераважна ў гарадах. Спачатку паявілася рамяство на заказ, потым і на рынак. У 16—1-й пал. 17 ст. ў дзярж. гарадах Беларусі было каля 200 рамесных прафесій, у прыватнаўладальніцкіх — 123. Дыферэнцыяцыя рамяства, адгалінаванне новых прафесій было сведчаннем развіцця рамеснай вытворчасці. З сярэдзіны 16 ст. ў гарадах пачалі арганізоўвацца аб'яднанні Р. — *цэхі* на зах.-еўрапейскі ўзор з іх карпарацыйнасцю і іерархічнай структурай. У цэхах паўнапраўнымі былі *майстры*; у іх майстэрнях працавалі *падмайстры* і вучні. Цэхі актыўна змагаліся супраць няцэхавых майстроў (*партачоў*), каб пазбавіцца некантралюемых канкурэнтаў. Дзейнасць цэхавых Р. рэгулявалася правіламі, запісанымі ў цэхавых статутах. Р. ў 16—18 ст. складалі да 50—65% насельніцтва вялікіх і да 20—30% малых гарадоў і мястэчак. Кіраўнікі рамесных цэхаў — *цэхмістры* — уваходзілі ў склад *магістратаў*. Акрамя гарадскіх, існавала значная група Р. у маёнтках феадалаў — *сяляне-слугі*. Яны надзяляліся зямлёю. Іх адпрацовачнай рэнтай была праца на феадала. Па меры перасялення магнатамі рамесных сялян-слуг у феад. *юрыдыкі* ў гарадах і пераводу іншых Р.-слуг у разрад прыгонных сялян катэгорыя рамесных сялян-слуг паступова змяншалася. У Статуце ВКЛ 1529 *галоўшчына* Р. (з пералікам шэрагу прафесій) прыраўноўвалася да галоўшчыны путнага чалавека — 12 рублёў (вышэйшая стаўка), навязка — рубель. У Статуце ВКЛ 1566 ёсць аналагічны артыкул, у якім Р. падзелены на 2 катэгорыі. Галоўшчына залатара (залатых спраў майстра), арганіста, пушкара, гафтара, маляра, краўца складала 30 коп грошаў (як і путнага слугі), а навязка — 3 рублі. Галоўшчына дойліда, каваля, сталяра, возніка, муляра, шаўца, ганчара і інш. — 20 коп грошаў, навязка — 3 рублі. У Статуце ВКЛ 1588 у аналагічным артыкуле Р. аб'яднаны ў 1 групу, галоўшчына іх — 30 коп грошаў і навязка — 3 рублі.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Рапалёніс** (Рапагеланус, Рафаловіч; Rapolionis, Rapagellanus) Станіслаў (каля 1485—13.5.1545), дзеяч культуры і лютэранскай царквы, педагог. Нарадзіўся недалёка ад Эйшышак. З 1528 вучыўся ў Кракаўскім ун-це, скончыў яго са ступенню бакалаўра. Адным з першых далучыўся ў ВКЛ да лютэранства. З 1539 выкладаў у школе А.*Кульвяца* ў Вільні. У 1542—44 вучыўся ў Вітэнбергскім ун-це, дзе атрымаў ступень д-ра тэалогіі (1544). З 1544 праф. Каралявецкага ун-та, выкладаў там тэалогію, а пасля і яўрэйскую мову. У кнізе М.*Мажвідаса* «Спевы хрысціянскія» (ч. 2, 1570) надрукаваны песнапенні ў перакладзе Р. Аўтар тэалагічных твораў на лац. мове.

*Літ.*: Stanislovas Rapolionis. Vilnius, 1986.

**Рапнін** (Репнин) Мікалай Васілевіч [11(22).3.1734—12(24).5.1801], расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, генерал-фельдмаршал (1796), князь. На вайсковай службе з 1745. У 1762—63 пасол у Прусіі. У 1763 паўнамоцны міністр Расіі ў Рэчы Паспалітай, у 1764—68 надзвычайны пасол. Забяспечыў абранне на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764), арганізаваў лаяльныя да Расіі *Слуцкую канфедэрацыю* і *Радамскую канфедэрацыю*, падрыхтаваў *дагавор 1768*, які гарантаваў пратэктарат Расіі над існуючым ладам у Рэчы Паспалітай, свабоду веравызнання і грамадзянскіх правоў дысідэнтам (некатолікам). У час Руска-турэцкай вайны 1768—74 камандаваў корпусам у Малдове і Валахіі, рыхтаваў Кючук-Кайнарджыйскі дагавор з Турцыяй (1774). У 1775—76 пасол у Турцыі. Генерал-губернатар арлоўскі, смаленскі і белгародскі ў 1777—78, пскоўскі і смаленскі ў 1781—82. У 1782—84 камандаваў рэзервовым корпусам у Рэчы Паспалітай. Удзельнічаў у падрыхтоўцы Даравальнай граматы гарадам 1785. У 1791 галоўнакамандуючы ў Руска-турэцкай вайне 1787—91. Генерал-губернатар эстляндскі ў 1793—94, віленскі ў 1795—98. Галоўнакамандуючы войскамі Расіі па падаўленні *паўстання 1794*. Камандзір Літ. дывізіі, ваенны губернатар Рыгі, кіраваў камісіяй па дэмаркацыі мяжы Рас. імперыі з Прусіяй пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай. У 1797 узначаліў падаўленне сял. хваляванняў у Валагодскай, Арлоў-



скай і Калужскай губ. У 1798 на чале дыпламатычнай місіі выехаў у Аўстрыю і Прусію для стварэння антыфранцузскай кааліцыі, пасля правалу гэтага плана звольнены ў адстаўку. У 1795 атрымаў ва ўласнасць 8454 сялян абодвух полаў у Пінскай эканоміі, большасць з іх прадаў перад смерцю.

*Літ.*: Бантыш-Каменский Д.Н. Биографии российских генералиссимусов и генерал-фельдмаршалов. Ч. 1. СПб., 1840; Чечулин Н.Политика России в Польше перед первым разделом // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1896. № 8—9; Żytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie w latach 1794—1797. Wilno, 1938; Массон Ш. Секретные записки о России времени царствования Екатерины II и Павла I: Пер. с фр. М., 1996.

***Яўген Анішчанка.***

**Расейнскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1791—95 у складзе *Жамойці*. Цэнтр — г. *Расейны*. У Р.п. увайшла паўд. частка Жамойці з гарадамі і мястэчкамі Айрагола, Відуклі, Вількія, Кайраны, Крожы, Панемань, Паюры, Рэтаў, Тандзягола, Ясвойны і інш. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) большая частка тэрыторыя Р.п. далучана да Рас. імперыі, раёны на Пд ад Нёмана — да Прусіі.

**Расейны** (літ. Расейняй, Raseiniai, цяпер горад, цэнтр Расейнскага р-на, Літоўская Рэспубліка), горад, цэнтр *Жамойці*. Упершыню ўпамінаюцца пад 1253. У 1253, 1322 і 1357 былі аб'ектам нападаў крыжакоў. У 1418 цэнтр воласці. У 1421 у Р. заснаваны касцёл (адзін з першых у Жамойці). У 16 ст. атрымаў абмежаваныя правы на самакіраванне. З 2-й пал. 16 ст. ў Р. збіраліся соймікі Жамойцкай зямлі, засядалі земскі і гродскі суды. У 1643 Р. атрымалі прывілей на правядзенне кірмашоў. У 17—18 ст. існавалі кляштары дамініканцаў і кармелітаў, з 1750 дзейнічаў піярскі калегіум. У 1789 — 154 дымы. З 1791 цэнтр *Расейнскага павета*. 20.3. 1792 Р. атрымалі магдэбургскае права і герб з выявай рысі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Smilgevičienė K., Trečiakauskas K. Raseiniai. Vilnius, 1979.

**Расейняй** (Raseiniai), горад у Літве, цэнтр Расейнскага р-на, гл. *Расейны*.

**Расійская імперыя.** Існавала ў 1721—1917. Яе тэрыторыя ў пач. 20 ст. складала 22,4 млн. км², насельніцтва, паводле перапісу 1897, — 128,2 млн. чал. Сталіца — Санкт-Пецярбург (з 1914 — Петраград). Была спадчыннай манархіяй на чале з імператарам, які валодаў самадзяржаўнай уладай. Гэта было замацавана «Асноўнымі дзяржаўнымі законамі». Члены сям'і і сваякі імператара складалі імператарскі дом. Парадак пераходу рас. прастола быў заснаваны на прынцыпе атрымання ў спадчыну па прамой лініі, пры адсутнасці прамых нашчадкаў прастол пераходзіў да бакавых. Абавязковай умовай уступлення на трон новага імператара было спавяданне ім праваслаўя. Заканадаўчую ўладу імператар ажыццяўляў праз Дзярж. савет (з 1810) і Дзярж. думу (з 1906), дзярж. апаратам кіраваў праз Сенат, Савет міністраў і міністэрствы. Імператар быў вярхоўным кіраўнікам узброеных сіл Р.і. Мужчынскае насельніцтва з 20 гадоў прысягала на вернасць імператару. Падданыя падзяляліся на 4 асн. саслоўі: дваранства, духавенства, гар. і сельскіх абывацеляў. Пануючым саслоўем было дваранства. Карэннае насельніцтва Казахстана, Сібіры, Сярэдняй Азіі, Каўказа і шэрагу інш. рэгіёнаў Р.і. вылучалася ў самастойныя саслоўі і называлася іншародцамі. Гэта катэгорыя насельніцтва кіравалася асобнымі законамі. Заканадаўства Р.і. было сабрана ў «Поўным зборы законаў Расійскай імперыі» і «Зборы законаў Расійскай імперыі». Р.і. мела герб — двухгаловага арла з царскімі рэгаліямі, дзярж. сцяг — палотнішча з белай, сіняй і чырвонай гарызантальнымі паласамі, дзярж. гімн, які пачынаўся словамі: «Божа, цара беражы». У 1708—09 тэр. Расіі была падзелена на 8 губерняў: Маскоўскую, Ігнерманландскую (пазней Пецярбургскую), Кіеўскую, Смаленскую, Казанскую, Азоўскую, Астраханскую і Сібірскую. З 1719 губерні падзяляліся на правінцыі, якія ў сваю чаргу падзяляліся на дыстрыкты (паветы). У 1727 у Р.і. было 14, у 1745 — 16 губерняў. Паводле «Устанаўлення для кіравання губернямі» 1775 краіна падзялялася на 50 губерняў з насельніцтвам па 200—300 тыс. чал. Губерня падзялялася на 10—12 паветаў па 20—30 тыс. чал. У 1914 у Р.і. было 77 губерняў, 18 абласцей і 4 граданачальствы.

З 1-й пал. 18 ст. адбывалася перабудова дзярж. апарату. У 1711 створаны Сенат — вышэйшы орган судовай і выканаўчай улады. У 1717—18 прыказы заменены калегіямі (Замежная, Ваенная, Адміралцейства), якія падпарадкоўваліся Сенату. У 1721 скасавана патрыяршаства, правасл. царква падпарадкавана дзяржаве, для яе кіравання створаны Свяцейшы Сінод. На месцах усёй паўнатой выканаўчай улады валодалі губернатары. У губернях акрамя губернскага праўлення дзейнічалі казённыя палаты, якія кантралявалі падаткі, розныя плацяжы і фінансавыя зборы. Пад кантролем Прыказа грамадскай апекі знаходзіліся школы, прытулкі, турмы і г.д. У 1802 замест калегій створана 8 міністэрстваў. У 1810—11 створаны Дзярж. савет і Камітэт (пазней Савет) міністраў. Пры Мікалаю І Дзярж. савет адышоў на другі план, узмацнілася значэнне Асабістай яго імператарскай вялікасці канцылярыі, дзе гал. ролю выконвала Трэцяе аддзяленне (паліт. вышук). Імперыя была падзелена на жандарскія акругі. У выніку рэформ 1861 рэарганізавана юрыд. сістэма, уведзены суд прысяжных для крымінальных спраў. У 1864 выдадзены закон аб утварэнні земстваў. У 1870-х г. праведзена рэформа гар. самакіравання. У 1906 створана Дзярж. дума. Лютаўская рэвалюцыя 1917 прывяла да ліквідацыі Р.і.

На працягу існавання Р.і. яе ўрад праводзіў актыўную знешнюю палітыку, пашыраліся межы імперыі. У выніку *Паўночнай вайны 1700—21* далучаны тэр. Латвіі, Эстоніі, часткі Карэліі. У выніку вайны з Асманскай імперыяй 1735—39 да Расіі адышлі Азоў і Запарожжа. Пасля рас.-шведскай вайны 1741—43 у склад Р.і. ўключана частка Фінляндыі. У 1731 рас. падданства прынялі казахі Малодшага жуза, у 1740 — Сярэдняга. У 1768—74 да Расіі адышлі паўн. бераг Чорнага мора, часткі Прыазоўя і Прыкубання, а пасля рас.-турэцкай вайны 1787—91 — землі на 3 ад Дняпра. У 1783 далучана *Крымскае ханства*. У выніку падзелу Рэчы Паспалітай 1772, 1793 і 1795 да Р.і. адышлі 468 тыс. км² тэрыторыі з больш чым 6 млн. чал. Да канца 18 ст. насельніцтва Р.і. дасягнула 35,5 млн.

чал., тэрыторыя — 16,8 млн. км².

Расія, абвешчаная ў 1721 імперыяй, патрабавала неадкладных рэформ. Праваднікам рэформ ва ўнутр. палітыцы стаў *Пётр I*. На аснове рэкруцкіх набораў ён стварыў рэгулярную армію і ваенна-марскі флот. Для падрыхтоўкі афіцэраў былі заснаваны спец. школы, у 1715 — марская акадэмія. Уведзены новы каляндар (1700), пачалося выданне 1-й рас. газеты «Ведомости» (1702), уведзены грамадзянскі шрыфт (1710), адкрыта арыфметычная школа для дваранскіх дзяцей (1714), заснавана Пецярбургская АН (1724). Мытны тарыф 1724 абмежаваў імпарт. З 1725 у Р.і. правіла *Кацярына I*, з 1727 — Пётр II, з 1730 — Анна Іванаўна, з 1741 — Лізавета Пятроўна. Пры ёй адменена смяротнае пакаранне, скасаваны ўнутр. мытні, пачалася кадыфікацыя законаў; у 1754 праведзена генеральнае межаванне. У 1762 правіў Пётр III, але ў хуткім часе ён быў скінуты з трона і забіты. Трон заняла яго жонка *Кацярына II*. Яна вызваліла дваранства ад абавязковай ваеннай і цывільнай службы (1762), правяла секулярызацыю царк. зямель (1764), скасавала казацкае кіраванне і знішчыла Запарожскую Сеч (1775), дала даравальныя граматы дваранству і гарадам (1785). У час яе праўлення адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай. У выніку далучэння да Р.і. зямель Беларусі, дзе пражывала каля 3 млн. чал., на Беларусь пашырана агульнарас. сістэма дзярж. падаткаў і павіннасцей; тут усталёўваўся адм.-тэр. падзел на рас. ўзор — паветы, правінцыі, губерні і генерал-губернатарствы. У 1772 створана Бел. генерал-губернатарства, у 1776 — Полацкая, Віцебская і Магілёўская, у 1793 — Мінская, у 1795 — Слонімская і Віленская губерні. У 1796—1801 на тэр. Беларусі існавалі Беларуская, Мінская, Літоўская губерні, якія ў 1801 падзелены на Віленскую, Віцебскую, Магілёўскую, Мінскую і Гродзенскую губерні. У губернях ствараліся палаты крымінальнага (дзейнічалі на аснове агульнаімперскага права) і цывільнага (вырашалі цывільныя справы паводле норм Статута ВКЛ 1588) судоў. Пасля прыняцця прысягі на вернасць Кацярыне II шляхта Беларусі атрымала ўсе правы і прывілеі рас. дваранства. Кацярына II і Павел I практыкавалі раздачу дзярж. зямель з прыгоннымі сялянамі рас. памешчыкам і буйным чыноўнікам. Гал. падаткам стаў падушны, які быў значна цяжэйшы за ранейшы падымны. Сяляне выконвалі паншчыну, плацілі чынш, натуральныя даніны і інш. Цяжкай павіннасцю для сялян і мяшчан была рэкруцкая павіннасць. Правасл. царква на Беларусі атрымала статус дзяржаўнай, а каталіцкая страціла прывілеяванае становішча і трапіла пад кантроль рас. ўрада. Рабіліся намаганні для заахвочвання пераходу ў праваслаўе вернікаў уніяцкай царквы. 22.4.1794 Кацярына II выдала ўказ аб ліквідацыі ўсялякіх перашкод да вяртання уніятаў у правасл. веру. 12.2.1839 Сабор вышэйшага уніяцкага духавенства ў Полацку прыняў акт аб уз'яднанні уніятаў з Рус. правасл. царквой. Пасля падаўлення паўстанняў 1830—31 і 1863—64, у ходзе якіх большасць прадстаўнікоў каталіцкага духавенства падтрымала паўстанцаў, палітыка Р.і. ў адносінах да каталіцтва стала больш жорсткай. На тэр. Беларусі ў розныя часы ствараліся і дзейнічалі Бел. (Магілёўская), Мінская, Полацкая, Літ. правасл. епархіі; Бел., Магілёўская, Інфлянцкая, Мінская, Віленская рымска-каталіцкая епархіі; Полацкая, Брэсцкая, Віленская, Літ. і Бел. уніяцкія епархіі. На пач. 1860-х г. у 5 зах. губернях Р.і. (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай) пражывала больш за 2,6 млн. праваслаўных (разам са старавераmі), больш за 1,3 млн. католікаў, 10 тыс. пратэстантаў, 460 тыс. іудзеяў і 3,6 тыс. мусульман.

У вайну 1812 частка бел. шляхты падтрымала Напалеона, спадзеючыся пры яго дапамозе аднавіць ВКЛ і Рэч Паспалітую. 1.7.1812 Напалеон падпісаў указ аб утварэнні ВКЛ у складзе Віленскага, Гродзенскага, Мінскага і Беластоцкага дэпартаментаў і прызначыў з прадстаўнікоў мясц. знаці Часовы ўрад ВКЛ. Але Напалеон не зрабіў ніякіх захадаў для ліквідацыі прыгоннага права, таму сялянства не падтрымала яго, а на паборы і марадзёрства заваёўнікаў адказала партызанскім рухам. Французская рэвалюцыя 1789—99, падзеі 1812 садзейнічалі пашырэнню на Беларусі дэмакратычных і нац.-вызваленчых ідэй. На пач. 19 ст. ў Віленскім ун-це і шэрагу інш. навучальных устаноў, у Літ. асобным корпусе дзейнічалі гурткі мясц. моладзі, якія выступалі за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Таварыствы філарэтаў і філаматаў, Патрыятычнае, «Ваенныя сябры» мелі сувязь з арганізацыямі дзекабрыстаў. Пры ўдзеле Патрыятычнага таварыства падрыхтавана паўстанне 1830—31. Пасля яго падаўлення ўрад узяў курс на паступовае аслабленне эканам. і паліт. пазіцый шляхты і каталіцкага духавенства. Маёнткі ўдзельнікаў паўстання канфіскоўваліся, касцёлы і кляштары, служыцелі якіх мелі дачыненне да паўстання, зачыняліся. У працэсе разбору шляхты больш за 10 тыс. шляхціцаў выключаны з дваранскага саслоўя. Справаводства ў мясц. дзярж. установах і навучанне ў школах пераводзілася з польскай на рус. мову. У 1832 улады зачынілі Віленскі ун-т. У 1831 скасавана дзеянне Статута ВКЛ 1588 у Віцебскай і Магілёўскай, у 1840 — у Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губ.

*Літ.*: Киняпина Н.С. Внешняя политика России первой половины XIX в. М., 1963; Ерошкин Н.П. История государственных учреждений дореволюционной России. 2 изд. М., 1968; Троицкий С.М. Русский абсолютизм и дворянство в XVIII в.: Формирование бюрократии. М., 1974; Медушевский А.И. Административные реформы в России XVIII—XX вв. в сравнительно-исторической перспективе: Науч.-аналит. обзор. М., 1990; Нацыянальная палітыка Расійскага самадзяржаўя на Беларусі ў канцы XVIII—пачатку XIX стст. Мн., 1995; Луговцова С.Л. Политика российского самодержавия по отношению к дворянству Белоруссии в конце XVIII—первой половине XIX в. Мн., 1997; Национальные окраины Российской империи: становление и развитие системы управления. М., 1997; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.). Мн., 1998.

***Валянціна Грыгор'ева, Алена Філатава, Марына Сакалова.***

**Расоны** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Расонскага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Полацкім ваяв., на беразе воз. Расона. Вядомы з 1552. У той час мелі 7 дымоў, уласнасць Ф.І.Корсака. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**Растоцкі** Феадосій (свецкае імя Тадэвуш; 1725—1805), дзеяч уніяцкай царквы. Са шляхецкай сям'і, якая ў канцы 17 ст. перасялілася са Слонім-



скага пав. на Валынь. З 1739 чл. ордэна базыльян. У 1754 скончыў Грэчаскі калегіум у Рыме, святар. Пасля вяртання ў Рэч Паспалітую выкладаў у базыльянскіх школах Холма (праф. багаслоўя з 1754) і Уладзіміра. У 1772—84 правінцыял Літ. правінцыі ордэна базыльян, у 1784—88 генеральны візітатар і каад'ютар (намеснік) мітрапаліта Ясона Смагаржэўскага. З 1788 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. З 1790 сенатар (першы з уніяцкіх мітрапалітаў). У 1795 пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай адмовіўся прысягаць на вернасць Рас. дзяржаве, за што быў пазбаўлены Кацярынай II магчымасці выконваць функцыі мітрапаліта. Часовае кіраванне уніяцкай царквой было даручана архіепіскапу Іраклію Лісоўскаму, а Р. прапанавана выбраць месца жыхарства па-за межамі далучаных зямель (пераехаў у С.-Пецярбург). Кананічна лічыўся мітрапалітам аж да смерці, але рэальнай улады не меў.

*Літ.*: Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 16. Вильна, 1889; Likowski E. Dzieje Kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Cz. 1. 2 wyd. Warszawa, 1906; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб, 1907; Historia Kościoła w Polsce. T. 2, cz. 1. Poznań; Warszawa, 1979; Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 г.). Мн., 1999.

***Сяргей Казуля.***

**Ратундус** (Ратондус) Аўгусцін (каля 1520, г. Велюнь, Польшча—20.3. 1582), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, юрыст, гісторык, паэт. З мяшчан. Мяркуецца, што яго сапраўднае прозвішча Мялескі, але з маладых гадоў карыстаўся яго лацінізаваным варыянтам Р. Вучыўся ў Велюні, Познані, Вітэнбергу, Падуі. Д-р права. Служыў пісарам у кароннай канцылярыі, з 1551 у Вільні, каралеўскі сакратар. У 1552 прызначаны Жыгімонтам II Аўгустам войтам Вільні. Удзельнічаў у сістэматызацыі гар. права. Напярэдадні заключэння *Люблінскай уніі 1569* рашуча стаў на пазіцыі вярхоў ВКЛ. Як мяркуюць, Р. з'яўляецца аўтарам кн. «Размова паляка з літвінам аб вольнасці і аб няволі», выдадзенай ананімна ў Берасці ў 1565 або 1566 у адказ на антылітвінскія творы С.Ажахоўскага. У кнізе разглядаецца гісторыя і лад ВКЛ, крытыкуюцца грамадска-паліт. адносіны ў Польшчы, дзе свавольная шляхта паралізавала ўладу караля, дзеянне законаў і ўціскае ніжэйшыя саслоўі. Сойм ВКЛ 1565—66 даручыў Р. працу над падрыхтоўкай Статута ВКЛ 1566, за паспяховае выкананне якой у 1568 Р. быў набілітаваны і атрымаў шляхецтва з гербам «Роля». Р. выступаў за пашырэнне лац. мовы ў ВКЛ, выкарыстанне яе ў юрыспрудэнцыі замест беларускай, пераvод на яе літ. школ. Удзельнічаў у Люблінскім сойме 1569, быў уключаны ў склад камісіі па падрыхтоўцы Статута ВКЛ 1588. З 1567 цесна супрацоўнічаў з віленскім біскупам В.*Пратасевічам* пры ўладкаванні езуітаў у ВКЛ. Для караля Стафана Баторыя пераклаў Статут ВКЛ 1566 на лац. мову. Магчыма, ён напісаў далучаную да Статута кароткую хроніку вял. князёў ВКЛ. Выдаў шэраг палемічных твораў супраць пратэстантаў, вершы. Відаць, па ініцыятыве Жыгімонта II Аўгуста напісаў у 1550-х г. першую вядомую гісторыю ВКЛ. Аўтограф твора захоўваўся ў нясвіжскай б-цы Радзівілаў, пасля ў Пецярбургу, дзе знік у 19 ст. Два іншыя спісы таксама не дайшлі да нашага часу. Сабраныя матэрыялы Р. перадаў М.*Стрыйкоўскаму*, які іх выкарыстаў пры напісанні «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі». Урыўкі з кнігі Р. захаваліся ў хроніцы нямецкага гісторыка 17 ст. І.Ф.Рывіуса, сярод іх — звесткі з бел. летапісаў, якія не захаваліся да нашага часу.

*Літ.*: Jakubowski J. Nowe przyczynki do życiorysu A.Rotunda // Litwa i Ruś. 1912. Z. 1; Baryczowa M. Augustyn Rotundus Mieleski, wójt wileński, pierwszy historyk i apologeta Litwy: Rozdz. 3. W walce z różnowierstwem // Ateneum Wileńskie. 1935—36. R. 10—11; Яе ж. Augustyn Rotundus Mieleski — pierwszy historyk i apologeta Litwy // Z dziejów polskiej kultury umysłowej w XVI i XVII w. Wrocław etc., 1976; Senoji Lietuvos literatra. Kn. 5. Šešioliktojo amžiaus raštija. Vilnius, 2000.

***Валерый Пазднякоў.***

**ратуша** (польск. ratusz ад ням. Rathaus) 1) будынак, у якім размяшчаліся органы гар. самакіравання (*рада*, *магістрат*) у шэрагу еўрап. краін, у т.л. ў ВКЛ. З'явіліся ў 12 ст. Будавалі іх звычайна на гал. (рыначнай) плошчы ці на набярэжнай, у большасці яны завяршаліся шмат'яруснай вежай (з гадзіннікам, звонам, назіральнымі пляцоўкамі) — сімвалам самастойнасці і паліт. вольнасці горада. Гал. памяшканнем



Драўляная **ратуша** ў г. Ганязь на Падляшшы. Малюнак З.Глогера. 19 ст.

Р. была парадная зала для ўрачыстых актаў, пасяджэнняў магістрата, тэатральных паказаў і інш. Шэраг падобных Р. 13—17 ст. збярогся ў Бельгіі, Германіі, Італіі, Нідэрландах, краінах Прыбалтыкі, Украіне, Францыі і інш. На Беларусі Р. пачалі будаваць з увядзеннем гар. самакіравання на аснове *магдэбургскага права*. Іх ставілі ў гарадах пераважна на рыначных плошчах. У Р. размяшчаліся канцылярыя самакіравання, гар. скарб, архіў з кнігамі адм. прадпісанняў рады і яе судовых рашэнняў, граматы з прывілеямі, выдадзенымі гораду. У Р. праводзіліся і пасяджэнні судоў. Ратушны суд быў у Полацку, Магілёве, Пінску, Менску, Кобрыне і інш. Часам Р. будавалі разам з крамамі, аўстэрыямі, гасцінымі дварамі; частку памяшканняў (падвалы, першыя паверхі) адводзілі пад хлебныя крамы, склады тавараў прыезджых купцоў, памяшканні для апрацоўкі сукнаў; у іх захоўвалі гар. вагі і бочкі, якімі мералі збожжа («бочка мерная»). Часам да Р. прыбудоўвалі арсенал (Магілёў). На Беларусі Р. былі розныя памерамі і планіроўкаю, звычайна простыя, дакладныя і манументальныя па формах. Пераважаў вежавы тып Р. з шмат'яруснай вежай, завершанай разнастайнымі купалкамі ці шпілем. У бязвежавых Р. вертыкальнасць кампазіцыі падкрэслівалася рытмам калон порцікаў. Найб. вядомыя *Віленская ратуша*, *Ковенская ратуша*, *Менская ратуша*, *Магілёўская ратуша*, *Нясвіжская ратуша*.

***Зіновій Капыскі.***

**Раўдандварскі замак**, гл. *Краснадворскі замак*.

**Раўданскі замак**, крыжацкае ўмацаванне ў 1-й пал. 14 ст. і рэзідэнцыяльны комплекс у канцы 16 ст.—19 ст. у мяст. Раўданы ў Жамойці (цяпер Раўдоне ў Юрбаркскім р-не, Літоўская Рэс-

публіка). Размешчаны на краі адхону правага высокага берага Нёмана. Першы замак, праўдападобна кастэль, пабудаваны у час паходу вял. магістра Дзітрыха фон Альтэнбурга ў 1337 герцагам Генрыхам Баварскім як адзін з важных вузлоў ланцугу крыжацкіх замкаў на Жамойці ўздоўж Нёмана. Замак атрымаў назву Байерсбург (Bayersburg — «Баварскі замак»), але мясц. насельніцтва называла яго Раўдонпіліс («Чырвоны замак»), што ўказвае на гал. будаўнічы матэрыял замка — цэглу. У 1338 войска ВКЛ пасля беспаспяховай 20-дзённай аблогі Байерсбурга мусіла адступіць. Пад мурамі Байерсбурга ў час аблогі зімой 1341 быў смяротна паранены вял. кн. Гедымін, замак быў здабыты Мантывідам. У 1343 вял. магістр Рудольф Кёніг фон Вайцаў штурмаваў замак і дашчэнту яго разбурыў. 2 стагоддзі замак ляжаў у руінах. У сярэдзіне 16 ст. вял. кн. Жыгімонт Аўгуст даў Раўданы Крышпіну (Крыштофу) Кіршэнштэйну (гл. ў арт. *Крышпіны-Кіршэнштэйны*), які ў апошняй чвэрці 16 ст. пабудаваў на месцы крыжацкага замка цагляную рэнесансавую рэзідэнцыю абарончага характару. У плане замак быў прамавугольным, 2 галоўныя 2-павярховыя карпусы злучаны абарончымі мурамі. Уезд на дзядзінец адбываўся праз браму пасярэдзіне зах. мура. Вуглы паўн. корпуса ўзмоцнены 2 цыліндрычнымі вежамі, 3-я, найвышэйшая вежа (33,5 м) выступала па цэнтры паўдн. корпуса. У 1-й пал. 18 ст. Р.з. страціў абарончае значэнне і быў перабудаваны тагачасным уладальнікам Алендзкім у рэзідэнцыю палацавага характару: зах. мур з брамай разабраны, дабудаваны ўсх. корпус з нізкаю вежаю са знешняга боку і 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам з боку дзядзінца. Вакол палаца створаны парк (25 га). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Р.з. у 1810 перайшоў ва ўласнасць П.Зубава, які пачаў рэканструкцыю замка, але моцны пажар перашкодзіў гэтым планам. У 1871 баранеса фон Пырх перабудавала замак у неагатычным стылі: порцік разабраны, на яго месцы ўзведзены шматгранны рызаліт; вежы атрымалі зубчатае завяршэнне, у аконных праёмах зроблены прафіляваныя гзымсы, ва ўсх. корпусе ўнутраныя аконныя праёмы зменены на стральчатыя, па вуглах паўдн. корпуса ўзведзены нізкія цыліндрычныя вежачкі, завершаныя зубцамі. У 1936—39 літ. уладамі праведзены кансервацыйныя працы. У 2-ю сусветную вайну Р.з. атрымаў значныя пашкоджанні, у 1944 разбурана гал. вежа. Паўд. корпус разам з вежай адбудаваны ў 1968, папярэдне былі праведзены архітэктурна-археалагічныя даследаванні. У Р.з. размешчана школа, 35-метровая вежа адчынена для наведвальнікаў.


**Раўданскі замак.**

*Літ.*: Zaleski W. Zamek Raudańcski // Kłosy. 1879. № 711—712; Pinkus S. Raudonлs pilis // Lietuvos pilys. Vilnius, 1971; Lietuvos architektыros istorija. Vilnius, 1988. T. 1; Defensive Fortifications in Lithuania. Vilnius, 2001.

*Алег Дзярновіч.*

**Раўдзялюнас** (Raudeliunas) Вітаўтас (2.2.1930, в. Падаляй Кайшадорскага р-на, Літва—4.5.2002), літоўскі гісторык. Скончыў Вільнюскі ун-т (1964). У 1964—65 працаваў у Ін-це эканомікі Літ. АН, з 1965 у Вільнюскім ун-це, з 1971 у аддзеле (з 1977 ін-т) філасофіі, сацыялогіі і права Літ. АН, адначасова з 1991 выкладаў у Вільнюскім педагагічным ун-це. Даследаваў Статуты ВКЛ 1529 і 1566, гісторыю Трыбунала ВКЛ, гісторыю права ў Расіі і Украіне 17—18 вв. Падрыхтаваў навук. выданне Статута ВКЛ 1566. У серыі *«Помнікі літоўскага права»* апублікаваў зборнікі дакументаў Біржанскага княства (т. 1, 1982, з Р.Фірковічусам) і Трыбунала ВКЛ (т. 3, 1988, з А.Балюлісам), Жагарскага маёнтка (т. 4, 2003, з Балюлісам і Фірковічусам).

*Тв.*: Pirmieji Lietuvos Statuto leidimai (1588—1600) // Rus knygos spausdinimo pradžia ir Lietuva. Vilnius, 1966; К толкованию юридических терминов Литовского Статута // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7; Чудовский список Второго Литовского Статута // Тр. АН Лит. ССР. Сер. А. 1973. Т. 4; Подлинник украинского кодекса «Права» 1743 г. // Там жа. 1974. Т. 4; Antrojo (1566) Lietuvos Statuto nuoraštai // Teisini instytut raida Lietuvoje XIV—XIX. Vilnius, 1981; Z dziejów Trybunału Wielkiego Księstwa Litewskiego 1581—1648 // Kwartalnik Historyczny. 1986. № 4 (з Г.Віснерам).

**рахіты**, члены каталіцкага рэлігійна-дабрачыннага аб'яднання св. Роха (браты міласэрнасці ад св. Роха). Гал. задачай аб'яднання быў догляд за хворымі. Існавала ў Літве і Беларусі ў 1713—1840-я г. Заснавана віленскім біскупам К.К.Бжастоўскім, першы шпіталь св. Роха быў пры Віленскім кафедральным касцёле. Статут аб'яднан-

ня, распрацаваны канонікам Ф.Гечэвічам, прадугледжваў зарокі беднасці, чысціні, паслухмянасці і поўнага падпарадкавання віленскім біскупам, якія маглі вызваляць ад зарокаў, караць і інш. На чале аб'яднання стаяў старшы брат (першым быў К.Люткевіч). Р. мелі права збіраць міласціну на ўтрыманне хворых. У сувязі з частымі эпідэміямі сетка шпіталяў Р. хутка пашыралася. У 1752 апостальскі пісар Т.Стацэвіч і каралеўскі сакратар Т.Шышка з братамі заснавалі шпіталь Р. у Менску. У 1821 менскія Р. былі далучаны да блізкіх ім *баніфратраў*, нязгодным прапанавана выехаць у Жамойць. Пасля 1840 усе ўстановы Р. скасаваны.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Рахуба** (Rachuba) Анджэй Войцех (н. 29.5.1951, г. Пултуск Мазавецкага ваяв., Польша), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1989), праф. звычайны (1999). Чл.-карр. Варшаўскага навуковага т-ва (2004). Скончыў Варшаўскі ун-т (1975). З 1979 працуе ў Ін-це гісторыі Польск. АН, дзе з 1997 узначальвае сектар эдыцыі. Старшыня ў 1996—99 і віцэ-старшыня з 1999 Таварыства аматараў гісторыі, з 2004 віцэ-старшыня Польскага геральдычнага таварыства. У 1992—94 чл. дарадча-кансультацыйнай групы пры ўпаўнаважаным урада па справах гіст.-культурнай спадчыны польска-бел. камісіі. У 1992—95 чл. Польска-бел. камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў. Даследуе гісторыю ВКЛ 16—18 ст., праблемы паліт., дзярж. і грамадскага развіцця краіны, выдання гіст. крыніц. Склаў спісы службовых асоб у серыі «Ураднікі былой Рэчы Паспалітай XII—XVIII стст.»: «Інфлянцкія ўраднікі XVI—XVIII стст.»: (1994, з К.Мікульскім), «Цэнтральныя ўраднікі і дыгнітарыі Вялікага княства Літоўскага XVI—XVIII стст.» (1994, з Г.Люлевічам). У серыі «Ураднікі Вялікага княства Літоўскага: Спісы» выдаў спісы службовых асоб «Смаленская зямля і Смаленскае ваяводства XIV—XVIII ст.» (2003, з Г.Люлевічам і П.П.Раманюком), «Віленскае ваяводства XIV—XVIII ст.» (2004, з Г.Люлевічам і П.П.Раманюком). Выдаў спіс «Дэпутаты Галоўнага трыбунала Вялікага княства Літоўскага 1697—1794» (2004, з П.П.Раманюком, А.Мацуком, Я.Анішчанкам). У серыі «*Метрыка літоўская*» выдаў «Кнігу Сігілят 1709—1719)» (1987), «Рээстры падымнага Вялікага княства Літоўскага: Віленскае ваяводства 1690 г.» (1989), «Рэестры падымнага Вялікага княства Літоўскага: Брэст-Літоўскае ваяводства 1667—1690 г.» (2000), «Рэестры падымнага Вялікага княства Літоўскага: Троцкае ваяводства 1690 г.» (2000), «Кніга запісаў № 131» (2001), «Рэестры падымнага Вялікага княства Літоўскага: Новагародскае ваяводства 1690 г.» (2002, з Г.Люлевічам). Ажыццявіў выданне кніг Я.У.Пачобута-Адляніцкага «Успаміны 1640—1684» (1987), Я.А.Храпавіцкага «Дыярыуш. Ч. 2. Гады 1665—1669» (1988, з Т.Васілеўскім), П., М. і Т. Абуховічаў «Успаміны» (2003, з Г.Люлевічам).

*Тв.*: Konfederacja Kmicicowska i Związek Braterski wojska litewskiego w latach 1660—1663, Warszawa 1989; Hetmani polscy i litewscy XVI—XVIII w. Warszawa 1995; Ciechanowieccy herbu Dąbrowa, Warszawa 1997 (з С.Думіным і Ё.Сікорскай-Кулешай), Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763, Warszawa 2002; Палітычныя групоўкі ў ВКЛ (1569—1732) // Спадчына. 2002. № 5—6.

**Рацёнжскі дагавор 1404**. Заключаны каля замка Рацёнжак (Куявія, цяпер Куяўска-Паморскае ваяв., Польшча) 23 мая паміж Тэўтонскім ордэнам, Польшчай і ВКЛ у выніку асабістай сустрэчы вял. магістра Конрада фон Юнгінгена, караля Ягайлы і вял. кн. Вітаўта. Да заключэння Р.д. крыжакі, спасылаючыся на невыкананне Вітаўтам умовы *Салінскага дагавора 1398* аб перадачы ордэну Жамойці, працягвалі агрэсію супраць ВКЛ, падтрымлівалі Свідрыгайлу як прэтэндэнта на велікакняжацкі трон. Пры гэтым яны ігнаравалі булу папы Баніфацыя IX ад 9.9.1403, якая афіцыйна забараняла крыжовыя паходы супраць ВКЛ. Новае пагадненне паміж ордэнам і ВКЛ у асноўным паўтарала ўмовы Салінскага дагавора, ВКЛ прызнавала ўсх. частку Жамойці за ордэнам, Вітаўт абавязваўся не прымаць да сябе збеглых жамойтаў і дапамагаць ордэну супраць любых ворагаў, акрамя Польшчы; ордэн мусіў садзейнічаць ВКЛ у здабыцці Смаленска і Ноўгарада. Польшча атрымлівала права выкупіць у ордэна Дабжыньскую зямлю за 40 тыс. залатых. Паводле дагавора паміж Ягайлам і Вітаўтам апошняму пажыццёва перадавалася Зах. Падолле, якім у якасці васала Вітаўта мусіў кіраваць Свідрыгайла. За гэта 20.9.1404 у Камянцы-Падольскім Вітаўт прынёс Ягайлу новую васальную прысягу. Р.д., заключаны на 10 гадоў, дзейнічаў да пачатку *Вялікай вайны 1409—11*.

*Літ.*: Liv-, Esth- und Curlandisches Urkundenbuch nebst Regesten. Abt. 1. Bd. 4. 1394—1413. Dorpat, 1859; Prochaska A. Codex epistolaris Vitoldi. Kraków, 1882.

***Алесь Белы.***

**Рацлавіцкая бітва 1794**, першая буйная бітва ў час *паўстання 1794* у Польшчы, Літве і Беларусі. Адбылася 4 крас. каля в. Рацлавіцы пад Кракавам. У ёй паўстанцы пад камандаваннем Т.Касцюшкі (4100 чал. рэгулярнага войска з 12 гарматамі і 2 тыс. сялян-касінераў) перамаглі рас. войска пад камандаваннем ген. А.П.Тармасава (каля 3 тыс. чал. з 12 гарматамі). У бітве Касцюшка ўпершыню ў паўстанні паспяхова выкарыстаў у змаганні з рэгулярным войскам атрады касінераў — сялян-добраахвотнікаў, узброеных косамі. Перамога ў бітве садзейнічала распаўсюджванню паўстання на інш. тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Ржэўская зямля**, тэрытарыяльнае фарміраванне ва Усходняй Еўропе. Цэнтр — г. Ржэва (з сярэдзіны 16 ст. Ржэва Валадзімерава). У пач. 14 ст. вылучылася са складу Смаленскага княства ў якасці ўдзелу. Займала тэрыторыю вакол верхняволжскіх азёр і ў вярхоўях Волгі. Месцазнаходжанне Р.з. дазваляла кантраляваць сувязі Паўн.-Усх. Русі з Ноўгарадам і ў далейшым рабіла магчымым блакіраваць Маскве літоўска-цвярскія стасункі. Ржэўскі кн. Фёдар, які служыў маскоўскаму кн. Юрыю Данілавічу, у 1314 выконваў яго даручэнні ў Ноўгарадзе. На той момант Фёдар, відаць, страціў свае ўладанні, якія зноў апынуліся ў складзе Смаленскага княства ці часткова трапілі пад уладу ВКЛ. Распаўсюджванне ўплыву ВКЛ на ржэўскія землі пачалося яшчэ да 1335. У гэты год вял. князь уладзімірскі Іван Каліта з наўгародскім войскам спаліў літ. гарадкі Асечан і Расну, якія цягнулі да Ржэвы. Сама Ржэва ў той час ВКЛ не належала. Упершыню Ржэва апынулася пад уладай ВКЛ у 1356, калі з дапамогай літ. войска горад захапіў сын

сіжскага князя Іван (Сіжка — адна з валасцей Ржэўскай зямлі). Аднак летам 1558 мажайская і цвярская (або валакаламская) раці адбілі Ржэву. З набліжэннем да Ржэвы ўладанняў ВКЛ (да 1359 далучана Балая) імкненне заваладаць Р.з. становіцца сур'ёзнай мэтай вял. князя літоўскага Альгерда. Пасля чарговага зімняга захопа Ржэвы (1359—60) Андрэем Альгердавічам у горад наведаўся сам Альгерд. Р.з. стала плацдармам для далейшага развіцця экспансіі ВКЛ. Пасля нападу Андрэя Альгердавіча ў 1368 на цвярскія валасці ў адказ адбыўся паход маскоўскага ўдзельнага князя Уладзіміра Андрэевіча Серпухаўскага на Ржэву і захоп яе. У 1376 той жа князь няўдала спрабаваў адваяваць Ржэву, што сведчыць аб аднаўленні тут улады ВКЛ. Упартая барацьба за Р.з. прывяла да кампрамісу ў час непрацяглага праўлення ў ВКЛ Кейстута. У 1381—82 заключаны літ.-маскоўскі дагавор, у адпаведнасці з якім за ВКЛ зацвярджалася частка Р.з. (валасць Асуга), а большая яе частка пераходзіла да Масквы. Тым не менш стратэгічнае становішча Асугі перакрывала Маскве магчымасць дасягаць асн. масіву ржэўскіх зямель, а таксама стварала адзіную на той час сухапутную сувязь ВКЛ з Вял. княствам Цвярскім. Р.з. была пастаўлена пад кантроль ВКЛ і, відаць, страціла для Масквы былы інтарэс. У 1399 Ржэва перададзена маскоўскім вял. кн. Васілём І цвярскому вял. кн. Міхаілу Аляксандравічу. Неўзабаве апошні завяшчаў Ржэву старэйшаму сыну Івану. У пач. 15 ст. Р.з. зноў з'явілася ў складзе Вял. княства Маскоўскага. Яна звычайна перадавалася ўдзельным князям, трапіла на кароткі час у склад уладанняў кн. Свідрыгайлы, які ў 1408 збег у Маскву, на яе пачалі прэтэндаваць і наўгародцы. У 1446 за падтрымку ў міжусобнай барацьбе маскоўскі вял. кн. Васіль II паабяцаў аддаць Ржэву цвярскому правіцелю Барысу Аляксандравічу. Аднак апошні спачатку не здолеў заваладаць горадам, таму што там заселі прыхільнікі літ. улады. Пасля 3-тыднёвай аблогі з дапамогай гармат 20.2.1447 Барыс Аляксандравіч захапіў Ржэву, аднак у пач. 1448 з дапамогай саміх ржэвічаў горад перайшоў на бок ВКЛ. Магла пачацца вял. вайна, сам вял. князь літоўскі Казімір выступіў у паход, але ўсё скончылася мірам, адпаведна з якім Казімір адступіўся ад Ржэвы на карысць кн. Барыса. Апошні, відаць, не меў магчымасці замацаваць за сабой Р.з., і яна зноў стала маскоўскай. Паводле літ.-маскоўскага *дагавора 1449* Ржэва назаўсёды перайшла да Масквы. Мір 1494 і парамір'е 1503 пацвердзілі становішча Р.з., літ.-маскоўская граніца ад якой на той час адсунулася далёка на З.

*Літ.*: Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. Тверь, 1887; Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе: (Ржева и ее волости в XIV—XV вв.) // История СССР. 1984. № 6; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы: Борьба за Ржевскую землю // Российские и славянские исследования. Мн., 2004. Вып. 1.

***Віктар Цемушаў.***

**рокаш**, від узброенай шляхецкай апазіцыі ў Польшчы і Рэчы Паспалітай у 16—17 ст. Першапачаткова азначаў з'езд на сойм усёй шляхты, а не толькі яе выбраных прадстаўнікоў. Назва паходзіць з Венгрыі, дзе ў пач. 16 ст. шляхта з'язджалася на соймы на полі Рокаш каля г. Пешт. Назву «Р.» атрымаў з'езд шляхты пад Львовам у 1537 (т.зв. «Курыная вайна»), кіраўнікі якога ў дэкрэце соймавага суда 1538 названы ракашанамі. Кароль і магнаты не прызнавалі права ўсёй шляхты на непасрэдны ўдзел у соймах (за выключэннем элекцыйнага сойма), таму Р. стаў сінонімам бунту супраць караля. Шляхецкія ідэолагі разглядалі Р. як «апошнюю абарону вольнай рэспублікі» і інстанцыю, якая можа судзіць караля, міністраў і сенатараў; юрыдычнай асновай Р. лічылі права на адмову ў паслушэнстве каралю, зафіксаванае ў *Генрыкавых артыкулах* і *Пакта канвента*. Антыкаралеўскімі былі *Зэбжыдоўскага рокаш 1606—09* і *Любамірскага рокаш 1665—66*. Шляхта, якая збіралася на Р., утварала *канфедэрацыі*. Пазней ідэя рокашавых соймаў заменена шляхтай на лозунг збірання т.зв. *конных соймаў*.

***Валерый Пазднякоў.***

**рокі земскія**, тэрміны судаводства ў *земскіх судах* ВКЛ. Паводле Статутаў ВКЛ на працягу года адбываліся 3 судовыя сесіі, якія пачыналіся: у студзені, пасля каталіцкага свята Трох Каралёў (Вадохрышча, 6 студз.); летам, пасля каталіцкай Тройцы (Сёмухі); у верасні, пасля каталіцкага свята св. Міхала (29 вер.). Сесіі працягваліся па 4 тыдні кожная.

**«Роля»**, «К р о е», прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 150 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Арцішэўскія, Аўсяныя, Копці, Немаеўскія, Тарноўскія. У чырвоным полі 3 сярэбраныя сашнікі наўкол сярэбранай ружы з 5 пялёсткамі; клейнод — над прылбіцай з каронай 5 страусавых пёраў. Вядомы з сярэдзіны 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.



Герб **«Роля»**.

**рота**, 1) у праве ВКЛ форма (узор) прысягі, якая ўстанаўлівалася вышэйшай уладай або судамі. 2) Асн. арганізацыйная і тактычная адзінка наёмнай пяхоты ў Польшчы і ВКЛ у 16—17 ст. Налічвала 80—300 чал. У кавалерыі адпавядала Р. *харугва*, часам так называлі Р. ў пяхоце польскага або венгерскага строю. У замежных арміях адзінкі тыпу Р. называлі «кампаніі», гэты тэрмін замацаваўся і ў войску Рэчы Паспалітай 17—18 ст.

**ротмістр**, 1) ранг у войску ВКЛ у 16—18 ст. паміж паручнікам і падпалкоўнікам (палкоўнікам). У палках замежнага строю часам называўся маёрам. 2) Павятовая шляхецкая пасада ў ВКЛ, вайсковы камандзір шляхты некалькіх парафій павета, кіраўнік адпаведнай *харугвы*. Прызначаўся крэдэнсам павятовага *харужага*.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**рочкі гродскія**, тэрміны судаводства ў *гродскіх судах* ВКЛ. Паводле Статутаў ВКЛ пасяджэнні гэтых судоў пачыналіся з першага дня кожнага месяца і працягваліся 2 тыдні.

**рубель**, грашова-лікавая адзінка. Назва паходзіць, відаць, ад наймення ва ўсх.-слав. мовах жэрдкі — вазавога прыціскача для сена з зарубкамі на канцах праз «літоўскі» палачкападобны злітак серабра 12—15 ст. у 100—110 г, часам са спецыфічнымі зарубкамі. Як тэрмін грашовага абарачэння Р. фіксуецца з 13 ст. У ВКЛ у 2-й пал. 15—16 ст. Р. — грашова-лікавая адзінка 3-фракцыйнай лікавай сістэмы Р.—грош—пенязь, якая змяшчала 100 грошаў (1 грош прыраўноўваўся да 10 пенязяў). Ёсць таксама звесткі (1496) пра Р. у 2 капы. Р. як адзінка грашовага ліку з 15 ст. пашыраны таксама ў рус. княствах, але ўжо ў канцы 15 ст. ў большасці выпадкаў змяшчаў 200 дзенег, а ў Вял. княстве Маскоўскім утварылася своеасаблівая лікавая сістэма Р.—алтын—дзенга з колькасцю ў Р. 33 алтынаў 2 дзенег. З 2-й чвэрці 18 ст. рас. Р. прыраўноўваўся да 100 капеек, у пагранічных раёнах Рэчы Паспалітай у рас. Р. лічылі 10 злотых.

***Іван Сінчук.***

**Рудаміны**, Рудаміны-Дусяцкія, шляхецкі род герба «Трубы». Вядомы з 16 ст. Родапачынальнік купец Андрэй Мікалай, радца віленскі ў 1521, які валодаў землямі ў Рудамінскай вол. недалёка ад Вільні (падараваны вял. кн. Аляксандрам), меў сыноў Мацея і Яна (?—1599), віленскага бурмістра. Прадстаўнікі роду валодалі Дусятамі (адсюль 2-я частка прозвішча, якой карысталіся з канца 16 ст.), Відзішкамі ў Вількамірскім пав., Лучаем, Камаямі, Граўжышкамі, Гняздзілавічамі, Вольберавічамі, Дудамі, Даўгінавам, Мільчай у Ашмянскім пав., Дукштамі ў Браслаўскім пав., Муснікамі ў Віленскім ваяв., Палонкай, Сваятычамі ў Навагародскім пав. і інш. Найб. вядомыя:

Мацей (?—1586), сын Андрэя Мікалая. Віленскі купец, буйны гандляр футрам. У 1550—70-я г. неаднаразова выбіраўся радцам і бурмістрам. У 1585 купіў у Ю.Радзівіла Дусяты. У 1576 атрымаў шляхецтва, М. Радзівіл Руды прыняў яго з родам да сябе ў гербавае братэрства.



Да арт. **Рудаміны.** А.Рудаміна.

Андрэй (каля 1595—3.9.1632), сын Яна. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, Лёвенскім ун-це (Бельгія), Рымскім езуіцкім калегіуме. З 1618 езуіт. У 1625 як місіянер выехаў у партугальскія калоніі Гоа, Макао, потым у Кітаі. Аўтар рэліг. твораў на кітайскай мове.

Ян (каля 1543—21.7.1621), сын Мацея. Удзельнік *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Войскі браслаўскі з 1600, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1602, 1605, 1615. Збудаваў *Камайскі касцёл*.

Ян (1581—9.2.1646), сын Яна. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, Інгальштацкім і Аўгсбургскім ун-тах (Германія). Каралеўскі дваранін і сакратар, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1610, ляснічы вількійскі з 1618, навагародскі падваявода ў 1619—22, харужы ў 1627—36, кашталян з 1636. У 1623—35 неаднаразова выбіраўся паслом на сойм. Удзельнік *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, *Хацінскай бітвы 1621* з туркамі. Бітву апісаў у вершаваным творы «Праўдзівы дыярыуш экспедыцыі Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага супраць Асмана ў Валахіі шчасліва выпраўленай» (1640). Яму прысвечаны творы М.К.*Сарбеўскага*.

Пётр (?—1649), сын Яна. Вучыўся ў Нясвіжскім калегіуме, Віленскай акадэміі. Удзельнік войнаў Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, з Расіяй 1609—18 і 1632—34. Браслаўскі падстолі ў 1620—21, войскі ў 1621—24, харужы ў 1624—39, кашталян дорпацкі ў 1639—43 і смаленскі з 1643, стараста ўсвяцкі ў 1623—40; пасол на соймы 1631, 1632, 1635, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1619, 1626.

Крыштоф (?—1655), сын Яна. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, Марбургскім і Падуанскім ун-тах. Удзельнік войнаў Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, з Расіяй 1608—19 і 1654—67, Хацінскай бітвы 1621. Маршалак браслаўскі ў 1630—45, кашталян полацкі ў 1645—54, ваявода менскі з 1654; пасол на соймы 1627, 1632, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1639, 1644, 1653.

Ян Мікалай (1615—51), сын Пятра. Вучыўся ў Віленскай і Кракаўскай акадэміях, Лейдэнскім і Балонскім ун-тах. Браслаўскі харужы ў 1639—45 і маршалак з 1645, стараста ўсвяцкі, пасол на сойм 1648, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1640, 1645.

Пётр (?—1684), сын Крыштофа. Стольнік браслаўскі ў 1652—61, харужы ашмянскі ў 1661—67, стараста старадубскі з 1663, падваявода віленскі ў 1669—82, палкоўнік войска ВКЛ; неаднаразова выбіраўся паслом на соймы ў 1665—74, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1655, яго маршалак у 1679. Ваяваў супраць войск Б.Хмяльніцкага, шведскіх войск у Жамойці і Інфлянтах у час *Паўночнай вайны 1655—69*. У вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1660—61 ваяваў ва ўсх. Беларусі, удзельнічаў у *Кушліцкай бітве 1661*. У 1667 галоўнакамандуючы арміяй ВКЛ на рас. мяжы.

Юзаф Станіслаў (6.1.1689—3.3.1729), езуіт, выкладаў у езуіцкіх навуч. установах у Вільні, Гародні, Навагародку, Любчы, Полацку, Браневе, з 1728 рэктар *Менскага езуіцкага калегіума*. Аўтар драматычных твораў.

Антоні Людвік (?—1756), сын Яна Казіміра, падкаморага браслаўскага. Стараста субоцкі і біржанскі з 1720-х г., падкаморы браслаўскі з 1724; неаднаразова выбіраўся паслом на соймы ў 1720—46. Пасол Станіслава Ляшчынскага ў Пецярбург у 1733. З 1735 падтрымліваў Аўгуста III.

***Валерый Пазднякоў.***



**Рудаўская бітва 1370**. Адбылася 17 лют. каля замка Рудава (ням. Рудаў, Rudau) у Самбіі (Прусія) паміж войскамі ВКЛ і Тэўтонскага ордэна. Паход у Прусію быў прадпрыняты вял. князямі Кейстутам і Альгердам у адказ на наступальную ваенную дзейнасць Ордэна ў 1360-я г., якая завяршылася ўзяццем і разбурэннем 3 замкаў Коўну ў ліст. 1369. Высланы тэўтонцамі ў разведку атрад пад камандаваннем гал. маршала Хёнінга Шындэкопфа 2.2.1370 сустрэў і разбіў авангард войска ВКЛ, выведаўшы ад палонных планы гал. сіл. Войска ВКЛ, якое складалася з літоўцаў і русінаў, авалодала замкам Р., але 17 лют. было перахоплена сіламі ордэна пад камандаваннем вял. магістра Вінрыха Кніпродэ, якія складаліся з ордэнскіх братоў, іншаземных рыцараў і прусаў. Тэўтонцы рассеклі войска ВКЛ напалам, вымусілі атрады Кейстута адысці з поля бою, а Альгерда адступіць у лес, дзе і нанеслі яму канчатковае паражэнне. Страты войска ВКЛ на полі бою склалі каля 5500 чал., пераважна русінаў. Шмат воінаў загінула ад марозу пры адступленні. У тэўтонцаў загінула каля 300 чалавек, у т.л. Шындэкопф, брандэнбургскія комтур і замкавы комтур, рэдэнскі комтур, 20 інш. братоў і 3 іншаземныя рыцары. Нягледзячы на паражэнне, Р.б. дазволіла кіраўніцтву ВКЛ нанесці ўдар па ваеннай магутнасці Ордэна і не дапусціць пагаршэння стратэгічнага балансу сіл.

*Літ.*: Вартберг Г. Ливонская хроника // Чешихин-Ветринский Е.В. Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. Рига, 1876; Сагановіч Г. «Русь» у вайне з Нямецкім ордэнам (канец XIII—пачатак XV ст.) // Бел. гіст. агляд. 2001. Сш. 1—2; Гудавичюс Э. История Литвы. Т. 1. М., 2005.

*Ягор Новікаў.*

**рудня**, дробнае прадпрыемства металургіі жалеза і сталі, а таксама вырабу з іх прылад працы, інструментаў, зброі, гаспадарчых і побытавах рэчаў. Упершыню тэрмін «Р.» сустракаецца ў грамаце кн. Уладзіміра Альгердавіча ад 1390. Р. будаваліся каля рэк, радовішчаў жалезнай руды і там, дзе была драўніна для выпальвання вугалю. Асн. абсталяванне Р. складалі сырадутныя печы, кавальскія горны, скураныя мяхі, вял. і малыя молаты, кавадлы, клешчы і інш. інструменты. Дробныя Р. выраблялі 4—7 пудоў крыцы за суткі, буйныя — да 15. Напачатку на Р. выкарыстоўвалі ручную працу, з 16 ст. — і вадзяное кола. У 18 ст. некаторыя Р. мелі па 3 вадзяныя колы, якія прыводзілі ў рух мяхі для падачы паветра ў доменную печ і фрышэркі (печы для пераробкі чыгуну ў жалеза і сталь), а таксама механічныя молаты для коўкі металу. У канцы 18 ст. найбольшыя Р. з доменнымі печамі былі ў Горвалі і Глебавай Рудні пад Бабруйскам. Металургія адбывалася двухстадыйным спосабам: спачатку выплаўлялі чыгун, потым яго перараблялі ў коўкі метал; выпускалі каля 33 т жалеза штогод. На тэр. Беларусі была густая сетка Р. Да сённяшняга дня тэрмін «Р.» ў сваіх назвах захавалі больш за 150 населеных пунктаў. Асабліва шырока вытворчасць жалеза была развіта на Гомельшчыне, Магілёўшчыне і Меншчыне.

*Літ.*: Osiński J. Opisanie polskich żelaza fabryk. Warszawa, 1782; Баркоўскі С., Скардзіс В. Аб жалезнай прамысловасці на Беларусі // Сав. краіна. 1931. № 12; Федоренко П.К. «Рудни» XVI—XIX вв. на территории СССР // Ист. зап. М., 1956. Т. 57.

*Міхаіл Гурын.*

**Рудыя Белкі**, Рудабелка (цяпер Акцябрскі, гар. пасёлак, цэнтр Акцябрскага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Мазырскім пав., на р. Нератоўка (прыток Пцічы). Вядома як сяло з сярэдзіны 15 ст., калі яно было дадзена вял. князем літоўскім Казімірам пану І.Гойцавічу (відаць, ва ўмоўнае валоданне). Пазней — велікакняжацкае ўладанне, уваходзіла ў Бчыцкую (Пціцкую) вол., неаднаразова здавалася ў часовае трыманне ці ў арэнду магнатам. У 1507 даход з Р.Б. быў на 10 гадоў падараваны М.Радзівілу на расходы, звязаныя з выкананнем абавязкаў ваяводы троцкага. Пазней вёскай валодаў яго сын Ян, пасля смерці якога ў 1545 зноў далучана да Бчыцкай вол. Паводле інвентара гэтай воласці, у 1552 у Р.Б. 99 дымоў. Жыхары павінны былі плаціць даніну мёдам, воскам, футрам, а таксама грашыма, рамантаваць масты цераз р. Пціч на гандлёвым шляху з Мазыра на Слуцк. У 1583 Р.Б. знаходзілася ў арэндзе (заставе) за 1830 коп грошаў ва ўдавы пана Ю.М.Зяновіча, ад якой перайшло да яе зяця кн. А.М.Вішнявецкага. У 1661 кароль аддаў сяло кн. А.Г.Палубінскаму за ваен. заслугі і ў якасці кампенсацыі за панесеныя страты ў суме 40 тыс. злотых у час службы ў Інфлянтах. У 1683 Рудабельская вол. налічвала 90 дымоў. У сяле былі царква, карчма, млын і рудня. У 1685 памёр сын А.Г.Палубінскага Канстанцый, і права на валоданне воласцю і вёскай зноў перайшло да Радзівілаў (ад сястры Канстанцыя — Ганны Марыі, якая была жонкай Дамініка Радзівіла). У 18 ст. Р.Б. была цэнтрам войтаўства ў Мазырскім старастве. У 1700 тут пабудавана уніяцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**«Ружа»**, прыватнаўласніцкі герб, гл. *«Порай»*.

**Ружанскі палацавы комплекс**, рэзідэнцыя Сапегаў 17—18 ст. каля в. Ружаны Берасцейскага пав. (цяпер гар. пасёлак у Пружанскім р-не). У пач. 17 ст. Л.Сапега пабудаваў 2-павярховы крыжападобны ў плане мураваны палац з 3 вежамі: 2 квадратныя ў плане на гал. фасадзе і тарцы левага крыла і 5-гранная на паўн.-ўсх. вугле. У цэнтр. частцы палаца, якая выступала глыбокім рызалітам, знаходзіліся вестыбюль з 4-маршавай лесвіцай і вял. зала на 2-м паверсе, у бакавых частках — жылыя пакоі, кабінеты, архіў, б-ка. Унутраная планіроўка анфіладная. Памяшканні на 1-м паверсе мелі скляпеністыя, на 2-м — бэлечныя перакрыцці. Пад палацам знаходзіліся 2-павярховыя скляпеністыя падвалы. У 1698, у час барацьбы Агінскіх з Сапегамі, і ў Паўн. вайну 1700—21 разбураны, у 1-й пал. 18 ст. адноўлены. У 1784—86 перабудаваны (арх. Я.С.*Бекер*): 2 вежы разабраны, а тарцовая ўключана ў аб'ём палаца, які стаў сіметрычным у плане; да цэнтр. часткі гал. фасада прыбудаваны порцік з падвойнымі пілястрамі і калонамі кампазітнага ордэра, завершаны трохвугольным франтонам са скульптурай. У дэкаратыўным аздабленні палаца сумяшчаліся рысы позняга барока і класіцызму. Адначасова створаны палацавы комплекс з некалькіх карпусоў, згрупаваных вакол параднага двара, з паркам, садамі і аранжарэяй. Сіметрычныя бакавыя карпусы размешчаны перпендыкулярна палацу і злучаны з ім паўцыркульнымі ў плане аркадамі. Усх. корпус падзя-



**Ружанскі палацавы комплекс**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

ляўся параднай лесвіцай на 2 роўныя часткі: тэатр і манеж. Тэатр меў глыбокую сцэну з 7 планамі куліс, што давала магчымасць тройчы мяняць афармленне ў час спектакля. Да сцэны прылягалі невял. гардэробныя. Падковападобная ў плане зала была 2-ярусная: у 1-м ярусе было 14 ізаляваных лож, на 2-м — 15 лож з каралеўскай у цэнтры. Ложы ўпрыгожвалі ажурныя балюстрады, калоны карынфскага ордэра. У зах. корпусе (не захаваўся) размяшчалася карцінная галерэя. Паралельна палацу па восі двара пабудавана ўязная брама з 2-павярховымі флігелямі па баках. Брама вырашана накшталт 3-пралётнай трыумфальнай аркі, упрыгожана разнымі геральдычнымі картушамі з моранага дубу. Фасады будынкаў дэкарыраваны руставанымі пілястрамі, ляпнымі гірляндамі, скульптурай, разнастайнымі абрамленнямі акон. З 1795 у палацавым комплексе размяшчаліся суконныя і ткацкія ф-кі. У 1914 комплекс пашкоджаны, часткова рэстаўрыраваны ў 1930, у 1944 у час Вял. Айч. вайны разбураны. Захаваліся гал. і ўсх. карпусы, аркады, уязная брама і флігелі, фрагменты аздобы інтэр'ераў і канструкцый перакрыццяў.

*Тамара Габрусь.*

**Ружанскі Петрапаўлаўскі манастыр.** Існаваў у в. Ружаны Берасцейскага пав. (цяпер гар. пасёлак у Пружанскім р-не). З 1568 вядома драўляная царква. У 1675 пры ёй заснаваны базыльянскі манастыр. Мураваная царква закладзена ў 1762 па фундацыі Хрысціны з Сапегаў Масальскай, будаўніцтва скончана у 1779 (архітэктар Я.С.Бекер). Мураваны 1-нефавы 1-вежавы з вял. паўкруглай апсідай будынак накрыты невысокім 2-схільным дахам, які над апсідай пераходзіць у конусападобны і завяршаецца галоўкай. Па баках апсіды размешчаны 2 квадратныя ў плане невысокія рызніцы, накрытыя 3-схільнымі дахамі. Гал. фасад мае ў цэнтры рызаліт, расчлянёны вертыкальнымі і гарызантальнымі элементамі складанага профілю (карнізы, раскрапоўкі, пілястры, нішы, філёнгі), завершаны атыкам з трохвугольным франтонам і 2-яруснай прамавугольнай у плане вежай-званіцай (з вітымі ўсходамі ўнутры), накрытай крыжападобным дахам з 4 франтончыкамі і галоўкай у цэнтры. Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны пілястрамі і завершаны развітым карнізам. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульным арачным завяршэннем маюць прафіляваныя абрамленні. Перакрыцце бэлечнае з падшыўным люстраным скляпеннем. Унутры на столі гал. аб'ёму і апсіды размалёўка на тэму Праабражэння (пашкоджана пажарам у 1895, адноўлена ў пач. 20 ст.). На скляпенні апсіды размешчана кампазіцыя «Бог Саваоф». На паўн. і паўд. сценах у медальёнах вобразы Пятра і Паўла. Жывапіс вызначаецца сухаватай акадэмічнай манерай. У агульнай каларыстычнай гаме, нягледзячы на багацце сініх тонаў, пераважаюць прыглушаныя цёплыя адценні (карычнева-чырвоныя, вохрыстыя).

Жылы корпус манастыра пабудаваны у 1784—88 (архітэктар Бекер) з паўд. боку царквы па фундацыі канцлера ВКЛ А.Сапегі. Будынак прамавугольны ў плане, 2-павярховы, накрыты вальмавым дахам. Рытм гал. фасада ствараецца прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершанымі трохвугольнымі і паўкруглымі сандрыкамі (на 1-м паверсе), пілястрамі. Цэнтр. частка сіметрычнага гал. фасада вылучана рызалітам, які быў завершаны трохвугольным франтонам. Дваровы і бакавыя фасады без архітэктурнага дэкору. Планіроўка 1-га паверха анфіладная, 2-га — калідорная, 1-ы паверх перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, перакрыцце 2-га — плоскае. Царква дзейнічае.

*Валянцін Калнін, Вольга Церашчатава.*

**Ружанскі Троіцкі касцёл.** Заснаваны у 1596 у в. Ружаны Берасцейскага пав. (цяпер гар. пасёлак у Пружанскім р-не), пабудаваны ў 1617 па фундацыі Л.Сапегі. У 1768 і 1787 прыбудаваны капліцы. У 1779 рэканструяваны ў стылі ранняга класіцызму (архітэктар Я.С.*Бекер*): зроблены звонку зах. партал, паўн. сакрыстыя, унутры сцены апрацаваны пілястрамі і карнізамі дарычнага ордэра, размаляваны хоры, бакавыя алтары, амбон, сцены апрацаваны пілястрамі і карнізамі дарычнага ордэра, размаляваны жывапісам. Рамантаваўся ў 1850 і 1891. Мураваны 1-нефавы храм з паўкруглай апсідай і 4-яруснай вежай пры уваходзе, арыентаваны на З. Па баках нефа знаходзяцца капліцы, прэсбітэрыя — сакрысты. Сцены нефа знадворку ўмацаваны контрфорсамі, паміж якімі акон-



**Ружанскі Троіцкі касцёл.**



ныя праёмы з арачнымі завяршэннямі. Вежа (3 васьмерыкі на чацверыку) накрыта стромкім шатром, мае 3 уваходы (зах. ў выглядзе класіцыстычнага партала). Ярусы падзелены прафіляванымі карнізамі, дэкарыраваны плоскімі нішамі і скразнымі арачнымі праёмамі. Знадворку ў нішы апсіды — скульптурная выява канца 19 ст. Неф, капліцы і прэсбітэрый перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з люнетамі, сакрысты — крыжовым, апсіда — конхавым з падпружнай аркай. Уваход з вежы у неф аздоблены парталам у стылі позняга рэнесансу. У інтэр'еры над уваходам — хоры на крыжападобных у плане слупах з разнымі кранштэйнамі, абгароджаны балясамі. У апсідзе 2-калонны гал. алтар са штучнага мармуру, па баках яго 2 калоны, завершаныя раскрапаваным лучковым франтонам, на якім змешчаны выявы анёлаў і аздоблены герб Сапегаў. Абапал калон — драўляныя паліхромныя выявы св. Пятра і Паўла. Над раннекласіцыстычнымі парталамі ўваходаў у сакрысты — драўляныя ложы ў стылі ракако. Прэсбітэрый ад нефа аддзяляе каваная агароджа 18 ст., прывезеная з касцёла ў Юдзінавічах. Скляпенні ўпрыгожаны сюжэтнымі і дэкаратыўнымі кампазіцыямі 18 ст. на евангельскія тэмы (часткова адноўлены у 19—20 ст.). На сценах капліц архітэктурны жывапіс 18 ст. Бакавыя алтары ў выглядзе порцікаў раннекласіцыстычнага стылю 18 ст. з каменнымі выявамі Ісуса і Марыі (канец 19 ст.). Амбон і арган упрыгожаны разным паліхромным арнаментам. Значную мастацкую каштоўнасць маюць станковы жывапіс, мемарыяльны помнік Б.Біспінгу (скульптар І.Прукнер). Касцёл дзейнічае. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 148.

***Валянцін Калнін.***

**рукапісная кніга**, кніга, тэкст і мастацкая аздоба якой выкананы ад рукі. Найб. раннія Р.к. вядомы ў стараж. Егіпце, Вавілоне, Індыі, Кітаі, дзяржавах Пярэдняй Азіі і Арабскага Усходу. Матэрыялам для стварэння кніг былі папірус, шоўк, скура (кнігі-скруткі альбо кнігі-сувоі), гліна (кнігі-пліткі) ці пальмавыя лісты. У 2—3 ст. для перапіскі Р.к. пачалі карыстацца спец. выробленай скурай (пергамінам), з 14 ст. — паперай. Асн. формай Р.к. ад гэтага часу стаў кодэкс — блок змацаваных аркушаў (сшыткаў) пісчага матэрыялу, звычайна ў пераплёце, які часам упрыгожвалі па-мастацку выкананым абкладам. Паводле прызначэння Р.к. падзяляюць на богаслужэбныя і чэцці (для чытання). На працягу 3—14 ст. у Еўропе скла́ліся традыцыі наднацыянальнай (візантыйска-грэчаскай, лацінскай і старaслав.) і нацыянальнай (французскай, італьянскай, яўрэйскай, англійскай і інш.) Р.к. Найб. пашырэнне мелі лацінскія Р.к. Перапісаныя ў італьянскіх, французскіх, нямецкіх майстэрнях (скрыпторыях), яны траплялі ў ВКЛ у б-кі Радзівілаў, Сапегаў, інш. магнатаў, Віленскай акадэміі, калегіумаў. Візантыйская Р.к. паўплывала на знешні выгляд, тэхніку вытворчасці і аздобу слав. Р.к. Менавіта з грэчаскіх рукапісаў браты Кірыла і Мяфодзій (9 ст.) пераклалі на старaслав. мову хрысціянскія богаслужэбныя кнігі. Для напісання слав. Р.к. ўжываліся кірыліца і глаголіца, дамінуючымі почыркамі быў устаў, пазней паўустаў і скорапіс. У ВКЛ кірылічная Р.к. працягвала сваё развіццё і існавала да канца 18 ст. З'явіліся новыя тыпы кніг: музычныя (*ірмалоі*), памінальныя (*памінальнікі*), ужытковыя (спісы Статутаў ВКЛ, *інвентары*, картулярыі, зборнікі для сямейнага чытання), зрэдку зборнікі энцыклапедычнага і маральна-багаслоўскага зместу. Побач са слав. і лацінскай мовамі выкарыстоўваліся старабел. і польская; асобныя канфесіі і групы насельніцтва карысталіся кнігамі на арабскай, яўрэйскай, нямецкай мовах. Цэнтрамі масавай вытворчасці бел. Р.к. былі скрыпторыі: мітрапаліцкія (у Вільні і Навагародку), манастырскія (у Віцебскім Маркавым, Мсціслаўскім Пустынскім, Супрасльскім Дабравешчанскім, Куцеінскім Богаяўленскім, Пінскім Лешчанскім, Жыровіцкім Успенскім манастырах), прыватныя (паноў Солтанаў у Шышкінях каля Вільні), дзяржаўныя («рус.» канцылярыя ВКЛ). Трывалая традыцыя перапіскі кніг была пры многіх полацкіх, смаленскіх і віленскіх цэрквах. Перапісчыкамі былі прыватныя асобы рознага сац. паходжання — княжацкага (Ю.Ю.Алелькавіч), святары і дыяканы, гараджане-пісары (пісец Марцін Львовіч з Гальшан). Р.к. — часта адзіная крыніца вывучэння бел. мовы і л-ры, гісторыі і права (зборнікі папулярных сярэдневяковых аповесцей *«Александрыя»*, *«Троя»* і інш., першыя 2 статуты ВКЛ, летапісы). Многія Р.к. маюць укладныя запісы і прыпіскі. Мастацкая аздоба Р.к. залежала ад яе прызначэння. Раскошна ўпрыгожваліся богаслужэбныя кнігі. Вядомы багата аздобленыя кнігі і свецкага зместу. Упрыгожанні складаюцца з заставак, ініцыялаў, мініяцюр і ілюстрацый. У аздобе Р.к. вылучаюць тэраталагічны (звярыны; 13—14 ст.), балканскі (15—16 ст.), новавізантыйскі (16 ст.), старадрукарскі (17 ст.) і маньерны (18 ст.) стылі, якія найбольш праяўляюцца ў малюнках заставак і ініцыялаў. Самыя важныя помнікі мастацкай аздобы бел. Р.к. — *Полацкія Евангеллі* (12—14 ст.), *Лаўрышаўскае Евангелле*, Мсціжскае Евангелле, Анежскі (Мсціслаўскі) Псалтыр (усе 13—14 ст.), *Радзівілаўскі летапіс* (15 ст.), «Дзесяціглаў» *Мацвея Іванавіча* Дзесятага, *Ваўкавыскае Евангелле*, *Жыровіцкае Евангелле*, *Слуцкае Евангелле* (усе 16 ст.), Пінскі зборнік, Супрасльскі ірмалой (17 ст.), Давыдкаўскі ірмалой (18 ст.), укр. Р.к. — *Кіеўскі Псалтыр* (14 ст.), *Перасопніцкае Евангелле* (16 ст.). На Беларусі ў асяроддзі стараввераў (веткаўскі і інш. цэнтры) Р.к. стваралася і выкарыстоўвалася да 20 ст. Цэнтрамі збірання і вывучэння бел. Р.к. у 19—пач. 20 ст. былі Віленская публічная б-ка і Бел. музей у Вільні (іх калекцыі знаходзяцца ў Цэнтр. б-цы АН Літвы). Найбольш бел. Р.к. зберагаецца ў Рас. нац. (С.-Пецярбург) і Рас. дзярж. (Масква) б-ках, б-ках Рас. АН у С.-Пецярбургу, Укр. АН у Кіеве, Львоўскага ун-та, Ягелонскага ун-та ў Кракаве, у Рас. дзярж. архіве стараж. актаў, Нац. б-цы (Варшава) і інш. Пасля страт, прычыненых ням.-фаш. акупацыяй, на Беларусі зберагаецца нязначная колькасць Р.к. у Цэнтр. навук. б-цы імя Я.Коласа НАН Беларусі, Нац. б-цы Беларусі, Нац. маст. музеі Рэспублікі Беларусь, Нац. музеі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь і інш.

*Літ.*: Добрянский Ф.Н. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882; Карский Е.Ф. Западнорусские переводы псалтыри в XV—XVII вв. Варшава, 1896; Яго ж. Белорусы. Т. 3, ч. 2. Пг., 1921; Яго ж. Славянская кирилловская палеография. М., 1979; Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кні-



гопісі ад канца X да пачатку XIX ст. Коўна, 1926; Розов Н.Н. Книга Древней Руси XI—XIV вв. М., 1977; Шматаў В.Ф. Мастацтва заходнерускіх рукапісаў (XI—XIII стст.) // Книговедение в Белоруссии. Мн., 1977; Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стст. Мн., 1993.

*Мікола Нікалаеў.*

**Румянцаўскі летапіс**, помнік беларуска-літоўскага летапісання; спіс пашыранай рэдакцыі *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, аналагічны тэксту *Альшэўскага летапісу*. Асн. змест Р.л. — гісторыя ВКЛ ад легендарных часоў да 1567. Найб. разгорнута і дэталёва апісаны перыяд княжання Вітаўта, пададзены паводле *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»*. Збярогся ў гіст. зборніку 2-й пал. 17 ст. рус. паходжання, які ў 18 ст. бытаваў у Падмаскоўі, пасля ў б-цы графа М.П.Румянцава, цяпер у Рас. дзярж. б-цы. Апрача бел.-літ. хронікі ў зборніку змешчана шмат летапісных урыўкаў і гіст. твораў, прысвечаных важным падзеям сусветнай і рас. гісторыі: пра падзенне Іерусаліма, узяцце Канстанцінопаля туркамі, Кулікоўскую бітву.



Старонка **Румянцаўскага летапісу**.

Р.л. упершыню апублікаваны ў 1902 Б.А.Вахевічам, перавыдадзены М.М.Улашчыкам у т. 35 «Поўнага збору рускіх летапісаў» (1980).

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Рункевіч** Сцяпан Рыгоравіч [11 (23).1.1867—1919?], беларускі гісторык праваслаўнай царквы, прапаведнік, грамадскі дзеяч. З сям'і святара Мінскай епархіі. Д-р багаслоўя (1899). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1891), потым выкладаў у ёй. У 1901—08 прыват-дацэнт Пецярбургскага ун-та. У 1901—17 займаў таксама адм. пасады ў Св. Сінодзе. Праводзіў рэлігійна-павучальныя чытанні, займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Гіст. погляды Р. склаліся пад уплывам М.В.*Каяловіча*. Навук. дзейнасць пачаў з выдання «Матэрыялаў для гісторыі Мінскай епархіі» (1892—94). Падрыхтаваў і выдаў фундаментальнае *«Апісанне дакументаў архіва заходнярускіх уніяцкіх мітрапалітаў»* (т. 1—2, 1897—1907). Аўтар прац па гісторыі Мінскай епархіі, артыкулаў у гродзенскіх, літоўскіх, мінскіх епархіяльных ведамасцях і інш.

*Тв.*: Краткий исторический очерк столетия Минской епархии... Мн., 1893; История Минской архиепископии, 1793—1832 гг. СПб., 1893; Жизнеописания западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. СПб., 1897; Религиозные мотивы в сочинениях А.С.Пушкина. СПб., 1899; История Русской церкви под управлением Святейшего Синода. Т. 1. СПб., 1900; Приходская благотворительность в Петербурге. СПб., 1900.

*Валерый Чарапіца.*

**Рурыкавічы**, назва прадстаўнікоў правячай дынастыі ў княствах Кіеўскай Русі ў 10—13 ст. і княжацкіх родах, што паходзілі ад Рурыка. Мяркуецца, што родапачынальнік Рурык (?—879) паходзіў з дацкага каралеўскага дома Ск'ёлдунгаў. З дынастыі Р. выдзелілася шмат удзельных і служылых княжацкіх родаў. Некаторыя з іх жылі на Беларусі: з дому князёў тураўскіх — *Дольскія* і *Чацвярцінскія* (па іншых меркаваннях, нашчадкі сына Гедзіміна *Любарта*); з дому князёў чарнігаўскіх — *Агінскія*, *Астрожскія* (паходжанне недастаткова высветлена), *Баратынскія*, *Масальскія*, *Пузыны*; з дому князёў суздальскіх — *Шуйскія*; з суздальска-ўладзімірскіх князёў, з маскоўскай лініі — *Вярэйскія* і *Мажайскія*, з серпухаўска-бароўскай галіны — *Яраславічы*; з дому князёў разанскіх — *Пронскія*; з дому князёў смаленскіх — *Вяземскія*, *Жыжэмскія* і *Саламярэцкія*. У Расіі вял. князі, з 1547 цары з роду Р. панавалі да 1598 (гл. *Іван III* Васілевіч, *Іван IV* Васілевіч).

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Власьев Г.А. Потомство Рюрика: Материалы для составления родословий. Т. 1—2. СПб.; Пг., 1906—18; Baumgarten H. de Genealogies et mariages occidentaux des Rurikides russes du X$^{e}$ au XIII$^{e}$ siecle. Roma, 1927; Яго ж. Genealogies des branches regnantes de Rurikides du XIIIe au XVIe siecle. Roma, 1934; Рапов О.М. Княжеские владения на Руси в X—первой половине XIII в. М., 1977; Пчелов Е.В. Легендарная и начальная генеалогия Рюриковичей // Летопись Историко-родословного о-ва в Москве. М., 1994. Вып. 2 (46); Яго ж. Генеалогия древнерусских князей IX—начала XI в. М., 2001. Войтович Л.В. Генеалогія династії Рюриковичів. Київ, 1990; Яго ж. Князівські династії Східної Європи (кінець IX—початок XVI ст.): склад, суспільна і політична роль. Історико-генеалогічне дослідження. Львів, 2000.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Русецкая** Саламея Рэгіна, гл. *Пільштын* С.Р.

**Русіна** Алена Уладзіміраўна (н. 25. 12.1960, г. Кіеў), украінскі гісторык. Канд. гіст. навук (1991). Скончыла Кіеўскі ун-т (1986). У 1978—80 працавала ў Музеі гіст. каштоўнасцей Украіны, з 1986 у Рэспубліканскім праўленні Добраахвотнага таварыства аматараў кніг Украіны, з 1987 у Ін-це гісторыі Украіны НАН Украіны (з 1996 старшы навук. супрацоўнік). Даследуе гісторыю ўкраінскіх зямель у складзе ВКЛ (паліт. і генеалагічныя аспекты, рэгіянальную гісторыю, крыніцазнаўства), гіст. міфалогію. Адзін з аўтараў кніг «Гісторыя Украіны: новае бачанне» («Історія України: нове бачення», т. 1, Кіеў, 1995), «Гіторыя Украіны ў асобах: Літоўска-польская эпоха» (Історія України в асобах: Литовсько-польська доба», Кіеў, 1997), «Гісторыя Украіны» («Історія України», Кіеў, 1997, 2 выд. 2000), «З гісторыі самакіравання і дэмакратыі ў Кіеве: (ад княжацкай эпохі да нашага часу)» [«З історії самоврядування та демократії у Києві: (від княжої доби до нашого часу), Кіеў, 2000], «Нарысы па гісторыі дыпламатыі Украіны» («Нариси з історії дипломатії України», Кіеў, 2001), «Незнаёмая Кліа» («Незнайома



Кліо», Кіеў, 2002). Складальнік зборнікаў дакументаў «Цёмныя стагоддзі: XIV—першая палова XV ст.» («Темні віки: XIV—перша половина XV ст.», Кіеў, 1993), «На пераломе: Другая палова XV—першая палова XVI ст.» (На переломі: Друга половина XV—перша половина XVI ст.», Кіеў, 1994). Дзярж. прэмія Украіны ў галіне навукі і тэхнікі 2001.

*Тв.*: Сіверська зямля у складі Великого князiства Литовського. Київ, 1998; Україна під татарами і Литвою. Київ, 1998; Студії з історії Києва та Київської землі. Київ, 2005.

**«Руска-беларускія сувязі»** [«Русско-белорусские связи (1570—1667 гг.», «Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.)»], зборнікі дакументаў, што асвятляюць узаемаадносіны ВКЛ з Рускай дзяржавай у 2-й пал. 16—канцы 17 ст. Падрыхтаваны супрацоўнікамі БДУ (Л.С.Абэцэдарскі, А.П.Ігнаценка) і Цэнтр. дзярж. архіва стараж. актаў у Маскве (цяпер Рас. дзярж. архіў стараж. актаў). Выдадзены ў Мінску ў 1963 і 1972. 1-ы зборнік змяшчае дакументы ад пасольства ВКЛ у Маскву ў 1570 да Андросаўскага перамір'я 1667, 2-і — да «Вечнага міру» 1686 паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Дакументы паходзяць з Рас. дзярж. архіва стараж. актаў, асобныя — з інш. архіваў, часткова перадрукаваны з ранейшых публікацый. Сярод крыніц — пасольская дакументацыя, вытрымкі з міжнар. дагавораў (Ям-Запольскага 1582, Дэулінскага 1618, Палянаўскага 1632, Андросаўскага 1667) і мытных кніг, перапіска рас. прыказаў з органамі ўлады на месцах, праязныя граматы і чалабітныя, указныя граматы рас. ўрада па пытаннях гандлю. Комплекс дакументаў асвятляе падзеі *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*: данясенні рас. ваявод пра падзеі ў ВКЛ, перапіска пра перасяленне сялян і мяшчан у Расію, распытвальныя гутаркі выхадцаў з Беларусі, царскія граматы насельніцтву занятых бел. гарадоў. Шматлікія дакументы асвятляюць дзейнасць выхадцаў з Беларусі ў Расіі: запісныя кнігі палонных, чалабітныя бел. рамеснікаў, спісы рамеснікаў і гандляроў бел. паходжання ў маскоўскіх слабодах і сотнях, дакументы пра майстроў-беларусаў Аружэйнай палаты, пра ўдзел выхадцаў з Беларусі ў сялвайне на чале з С.Разіным і інш. Зборнікі забяспечаны каментарыямі, геагр. паказальнікамі.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Руска-лівонскія акты»** («Русско-ливонские акты», «Russisch-Livländische Urkunden»), выданне гістарычных крыніц пра адносіны нямецкіх дзяржаў у Лівоніі (г. Рыга, Рыжскае архібіскупства, Лівонскі ордэн і інш.) з Ноўгарадам, Псковам, Смаленскам, Полацкам, Віцебскам, ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай у 12—пач. 17 ст. Зборнік склаў К.Э.Нап'ерскі, пасля яго смерці падрыхтаваў да друку А.А.Кунік, выдадзены Археаграфічнай камісіяй (С.Пецярбург, 1868). У ім змешчаны 402 дакументы і рэгесты, у асноўным з архіваў Рыгі. Сярод іх 1 дакумент 12 ст., 7 актаў 13 ст.; больш за 200 дакументаў апублікавана ўпершыню, з іх 49 на стараж.-рус., рус. і бел., 38 на лацінскай, 167 на нямецкай мовах. Дакументы зборніка асвятляюць паліт., дыпламатычныя, ваен. і гандлёвыя адносіны дзяржаў ва Усх. Прыбалтыцы. 10 актаў датычаць Смаленска, 7 — Віцебска, 66 — Полацка, больш за 150 — ВКЛ у цэлым. У зборніку апублікаваны *дагавор 1229* паміж Смаленскам, Віцебскам і Полацкам з аднаго боку і Рыгай і Гоцкім берагам з другога, граматы полацкіх князёў 13 ст. Гердзеня і Ізяслава, полацкага епіскапа Якава 1309, лісты вял. князя літоўскага Гедзіміна 1323, полацкага намесніка Мантыгірда канца 14 ст., вял. князя літоўскага Вітаўта 1401, кн. Свідрыгайлы 1402, гандлёвы дагавор Полацка з Рыгай 1405, перапіска полацкага баярства і мяшчанства з уладамі Рыгі 14—16 ст. і інш. У прадмове на рус. і нямецкай мовах дадзена агульная характарыстыка зборніка. Загалоўкі і каментарыі да дакументаў (матэрыял, мова, пячаткі, датаванне, месца зберажэння, публікацыі і інш.) зроблены на нямецкай мове. Пералік дакументаў, імянны і геагр. паказальнікі адсутнічаюць.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Руская гістарычная бібліятэка»** («Русская историческая библиотека»), зборнікі дакументаў і літаратурных помнікаў, што выдавала Археаграфічная камісія ў С.-Пецярбургу (Петраградзе, Ленінградзе) у 1872—1927; адна з найбольшых (39 тамоў) серый публікацый дакументаў у рас. археаграфіі. Зборнікі ўключалі пераважна крыніцы 14—17 ст. Апублікаваны акты, што асвятляюць знешнюю і ўнутраную палітыку Расіі, дакументы з царк. і манастырскіх архіваў, фрагменты летапісаў, творы А.М.Курбскага, Авакума і інш. Асобныя тамы прысвечаны гісторыі і культуры ВКЛ. Надрукавана частка *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* (т. 20, 27, 30, 33; 1903—15, рэдактары П.А.Гільтэбрант, І.І.Лапа, С.Л.Пташыцкі). У 1878—1903 з падзагалоўкам «Помнікі палемічнай літаратуры ў Заходняй Русі» выдадзены т. 4, 7, 19 (рэдактар Гільтэбрант), куды ўвайшлі «Дыярыуш» Афанасія Берасцейскага, «Абарона уніі» Л.Крэўзы, «Палінодыя» З.Капысценскага, «Апакрысіс» Хрыстафора Філалета, «Антырызіс» І.Пацея і яго лісты К.Астрожскаму і Клірыку Астрожскаму, ліст Клірыка Астрожскага Пацею, «Пасланне да латын з іх жа кніг», «Пра еднасць касцёла божага...» і «Берасцейскі сінод» П.Скаргі, «Антыграфі» М.Сматрыцкага і інш.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

***Софія Самуэль.***

**Руская цэнтралізаваная дзяржава**, феадальная шматнацыянальная дзяржава, якая ў канцы 15—пач. 16 ст. аб'яднала вакол *Маскоўскага вялікага княства* паўд.-ўсх. землі і княствы Русі.

Перадумова цэнтралізацыі — уздым у 14—15 ст. эканомікі: аднаўляліся землі, запусцелыя ў выніку мангола-татарскага нашэсця, асвойваліся новыя землі на Пн, ПнУ, У, развівалася сельская гаспадарка, рамяство, павялічваўся таварна-грашовы абарот. У цэнтралізацыі дзярж. улады былі зацікаўлены феадалы і духавенства, каб замацаваць сваё эканам. становішча і прыгон сялян, рамеснікі і гандляры, каб расшырыць рынак. Гэтага патрабавалі інтарэсы змагання супраць знешніх ворагаў. У барацьбе за паліт. першынство паміж Маскоўскім вял. княствам і *Цвярскім вялікім княствам* перамагла Масква. У асноўным рус. землі аб'яднаў вял. князь *Іван III* Васілевіч [1462—1505], пры якім былі далучаны Яраслаўскае (1463), Растоўскае (1474), Цвярское (1485) княствы, *Наўгародская рэспубліка* (1478), Вяцкая (1489), часткова Ра-

занская землі; у 1480 скінута мангола-татарская няволя. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* і *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* да Р.ц.дз. адышоў шэраг тэрыторый з г. Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Бранск, Любеч, Гомель, Старадуб, Мцэнск, Бельск і інш. Пры вял. князю Васілю III Іванавічу [1505—33] да Р.ц.дз. далучаны *Пскоўская рэспубліка* (1510), Разанская зямля (1521) і інш. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08* і *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* да Р.ц.дз. адышоў г. Смаленск і інш. землі. На службу да маскоўскага вял. князя перайшлі з ВКЛ князі *Вяземскія*, *Глінскія*, *Мажайскія* і інш. З шляхты ВКЛ, якая добраахвотна перасялілася ці была ўзята ў палон, у Расіі ўтварылася служылая праслойка — *літва дваровая*. У час рэгенцтва Алены Глінскай (1533—38) пры малалетнім вял. кн. *Іване IV* Васілевічу [1533—84] скасаваны ўдзелы. У 1547 Іван IV каранаваны як цар. У 1550-я г. захоплены Казанскае і Астраханскае ханствы, у залежнасць ад Масквы трапілі Вял. Нагайская арда і Сібірскае ханства, пачалося асваенне рускімі Сібіры. Іван IV пачаў *Інфлянцкую вайну 1558—82*, у выніку якой Расія страціла некаторыя паўн.-зах. землі. Пасля ўступлення на трон цара Фёдара Іванавіча [1584—98], апошняга з дынастыі Рурыкавічаў, у Расіі настаў т.зв. Смутны час. Цараванне Барыса Гадунова [1598—1605], *Ілжэдзмітрыя I* [1606] і Васіля Шуйскага [1606—12] адметнае паліт. нестабільнасцю і вострымі сац. канфліктамі (паўстанне І.Балотнікава 1606—07). *Вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, якая мела на мэце захапіць Смаленск і інш. гарады, падтрымаць прэтэндэнта на рас. трон *Ілжэдзмітрыя II*, з 1610 вялася, каб забяспечыць царскі прастол за абвешчаным царом Уладзіславам Жыгімонтавічам, сынам караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта III. У 1613 на рас. трон абраны Міхаіл Фёдаравіч [1613—45], першы цар з дынастыі Раманавых. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* скончылася для Расіі няўдала. З пачаткам царавання *Аляксея Міхайлавіча* [1645—76] рас. ўрад узяў курс на далучэнне ўкр. і бел. зямель. *Вайна Расіі з Рэччу Пас-*



Карта **Рускай цэнтралізаванай дзяржавы**. Картограф Г.Герытс. 1613.



*палітай 1654—67*, якая мела для Беларусі катастрафічны характар і скончылася далучэннем да Расіі некаторых зах.-рус. зямель і Левабярэжнай Украіны, выклікала ў Расіі рэзкае пагаршэнне сац.-эканам. становішча (сял. вайна 1670—71 на чале са С.Разіным, шматлікія паўстанні, у т.л. ў Маскве). Праўленне Фёдара Аляксеевіча [1676—82], Соф'і Аляксееўны [1682—89], Івана V Аляксеевіча [1682—96], Пятра I Аляксеевіча [1682—1725] адметнае ростам намаганняў Расіі атрымаць выхад да Чорнага мора, супрацьдзейнічаць агрэсіўнай палітыцы *Крымскага ханства* і Турцыі. Пасля завяршэння *Паўночнай вайны 1700—21*, у выніку якой да Расіі адышлі прыбалтыйскія землі, была абвешчана *Расійская імперыя* (1721).

Р.ц.дз. стваралася ў вострай унутрыкласавай барацьбе. Да сярэдзіны 16 ст. аформіўся дзярж.-паліт. лад Расіі — феад. манархія з саслоўным прадстаўніцтвам. Вярхоўная заканадаўчая, судовая і выканаўчая ўлада належала вял. князю (з 1547 — цару); дарадчы, судовы і выканаўчы орган — Баярская дума. У сярэдзіне 16—17 ст. склікаліся саслоўна-прадстаўнічыя Земскія саборы. Да 1550-х г. узніклі цэнтр. органы дзярж. кіравання — прыказы, у паветах намеснікаў замянялі саслоўныя органы самакіравання — губныя і земскія ізбы. Прававыя нормы Р.ц.дз. былі зафіксаваны ў Судзебніках 1497 і 1550, *Саборным улажэнні 1649*. У Р.ц.дз. большасць насельніцтва складала сялянства. Да сярэдзіны 17 ст. завершаны працэс юрыд. афармлення прыгоннага права. Буйнымі рамеснымі прадпрыемствамі былі Гарматны (з канца 15 ст.) і Манетны (заснаваны ў 1534) двары ў Маскве. У канцы 16 ст. ўзніклі першыя мануфактуры (паперні), у 17 ст. працавалі Хамоўны (палатняны) двор у Маскве, жалезаапрацоўчыя заводы ў Кашыры і Туле, шкляны і парахавы заводы ў Маскве і інш.

Інтэнсіўна развівалася мураваная фартыфікацыя. У 16 ст. пабудаваны крамлі ў Ніжнім Ноўгарадзе, Туле, Каломне, Зарайску, Смаленску, Серпухаве, пасля ў інш. гарадах. Абарончае значэнне мелі Кірыла-Белазерскі, Салавецкі і інш. манастыры. Вял. развіццё атрымала летапісанне («Ліцавы летапісны звод», Уваскрасенскі летапіс, *Ніканаўскі летапіс* і інш.), ствараліся гіст. аповесці («Задоншчына», «Сказанне пра Мамаева пабоішча», творы А.Паліцына, І.Цімафеева і інш.), распаўсюджваліся перакладныя творы («Александрыя», «Траянскае сказанне» і інш.). Сярод публіцыстаў 16—17 ст. вылучаюцца Ф.Карпаў, І.С.*Перасветаў*, Ермалай-Еразм, Авакум. У сярэдзіне 16 ст. ў Маскве ўзнікла кнігадрукаванне, 1-я датаваная кніга («Апостал») выдадзена І.*Фёдаравым* і П.*Мсціслаўцам* у 1564. У Маскве ў 17 ст. было адкрыта некалькі сярэдніх школ, у 1687 заснавана вышэйшая навучальная ўстанова — Славяна-грэка-лацінская акадэмія.

Тэр. Р.ц.дз. ў канцы 16 ст. каля 5,5 млн. км$^2$: на Пн да Баранцава і Белага мораў, на ПнУ уключала Урал, на ПнЗ межавала з Нарвегіяй, Швецыяй і Інфлянцкім ордэнам, на З і ПдЗ з ВКЛ, на Пд межы не былі акрэслены; насельніцтва каля 9—10 млн. чал. Этнічную аснову складалі рускія, жылі таксама лапары, ханты, комі, удмурты, татары, мары, чувашы, мардва, карэлы і інш. У ходзе войнаў з ВКЛ у Расію неаднойчы былі пераселены значныя групы беларусаў, якія паселены ў Маскве і інш. месцах (гл. *Будакі*). Бел. перасяленцы зрабілі вял. ўклад у развіццё рас. рамяства і духоўнай культуры (Перасветаў, Мсціславец, *Сімяон Полацкі*, І.*Капіевіч* і інш.).

*Літ.*: Черепнин Л.В. Образование русского централизованного государства в XIV—XV вв.: Очерки социально-экон. и полит. истории Руси. М., 1960; Тихомиров М.Н. Россия в XVI столетии. М., 1962; Яго ж. Российское государство XV—XVII вв. М., 1973; Зимин А.А. Реформы Ивана Грозного: Очерки социально-экон. и полит. истории России середины XVI в. М., 1960; Яго ж. Опричнина Ивана Грозного. М., 1964; Яго ж. Россия на пороге нового времени: (Очерки полит. истории России первой трети XVI в.). М., 1972; Яго ж. Россия на рубеже XV—XVI столетий: (Очерки социально-полит. истории). М., 1982; Яго ж. В канун грозных потрясений: Предпосылки первой крестьянской войны в России. М., 1986; Яго ж. Витязь на распутье: Феодальная война в России в XV в. М., 1991; Яго ж. Опричнина. М., 2001; Сахаров А.М. Образование и развитие Российского государства в XIV—XVII вв. М., 1969; Флоря Б.Н. Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI—начале XVII в. М., 1978; Яго ж. Польско-литовская интервенция в России и русское общество. М., 2005; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорус. земли в системе рус.-лит. отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001; Хорошкевич А.Л. Россия в системе международных отношений середины XVI века. М., 2003.

**«Руска-яўрэйскі архіў»**, гл. *Бяршадскага архіў*.

**Русь**, назва этнапалітычнай супольнасці ва Усходняй Еўропе ў сярэдневякоўі. Упершыню тэрмін «Р.» зафіксаваны ў 839, калі група варагаў (шведаў) назвала сябе пры двары герм. імператара пасламі «кагана Русі». У візантыйскіх і арабскіх крыніцах 2-й пал. 9 ст. паведамляецца пра марскія набегі Р. на паўд. берагі Чорнага мора і Каспія. «Баварскі географ» сярэдзіны 9 ст. ў пераліку народаў Усх. Еўропы называе Р. пасля бужан і улічаў, але перад уграмі і хазарамі, што сведчыць пра яе лакалізацыю ў Падняпроўі. Шэраг звестак 9—10 ст. атаясамлівае Р. са славянамі, большасць — з варагамі (нарманамі) ці проста адрознівае Р. ад славян. З пач. 10 ст. ў шэрагу арабскіх крыніц паўтараецца сюжэт пра месцазнаходжанне Р. на нейкім востраве, адзначаюцца напады Р. на славян, іх гандаль рабамі з Волжскай Балгарыяй і Хазарыяй. У 1-й пал. 10 ст. Р. заключыла з Візантыяй шэраг дагавораў, тэксты якіх захаваліся ў летапісах 11 ст. У дагаворы 911 сярод «рускіх градаў» названы Полацк, Растоў і інш., імёны амаль усіх паслоў у дагаворах германскія. Іспанскі географ Ібрагім бен-Якубі каля 966 паведамляе пра дзве Р., з якіх адна мяжуе з Польшчай з У, а другая на караблях нападае на З на прусаў. Першае падрабязнае апісанне Р. даў у сярэдзіне 10 ст. візантыйскі імператар Канстанцін VII, які ведае пра ўладара Р. кн. Ігара і «знешнюю Р.» з Ноўгарадам, дзе княжыў сын Ігара Святаслаў. Ён жа апісаў збор русамі даніны са славян і прывёў асобныя ад славянскіх «рускія» назвы дняпроўскіх парогаў, якія маюць германскую этымалогію. З 2-й пал. 10 ст. зах. крыніцы часам называюць Р. «Ругіяй», некаторыя звязваюць яе з в-вам Руген і суседнімі слав. землямі на паўд. узбярэжжы Балтыйскага мора. Уласныя пісьмовыя крыніцы Р. (стараж.-рус. летапісы)



з'яўляюцца з 11 ст. У «Аповесці мінулых гадоў» паведамляецца, што «Руская зямля» пачала так называцца з часоў візантыйскага імператара Міхаіла Ісаўра (з 842), а назва яе паходзіць ад варагаў, запрошаных княжыць у Ноўгарад. Там жа пералічаны слав. плямёны ў складзе Р., што даволі дакладна акрэслівае тэрыторыю Кіеўскай Русі 10—11 ст. «Аповесць» прыводзіць гісторыю фарміравання гэтай тэрыторыі праз захоп наўгародскім князем Кіева, падпарадкаванне асобных плямён і войны з Хазарыяй. Гэты комплекс пісьмовых звестак адпавядае археалагічным матэрыялам, якія фіксуюць з'яўленне скандынаўскіх рэчаў спярша на гарадзішчы Старая Ладага (2-я пал. 8 ст.), а на працягу 9—10 ст. — у Верхнім Паволжы і Падняпроўі, з адначасовым распаўсюджаннем вял. колькасці арабскіх манет (дырхемаў) на берагах Балтыкі і ўляснай зоне Усх. Еўропы. На гэтай жа тэрыторыі стаў пашырацца пахавальны абрад з выкарыстаннем ладдзі, вытокі якога прасочваюцца ў раёне г. Упсала (Швецыя) з 7—8 ст. Са шматлікіх версій паходжання назвы «Р.» найб. верагоднай лічыцца гіпотэза пра запазычанне славянмі фінскага слова «ruotsi» — «весляры», якім жыхары Усх. Прыбалтыкі называлі шведскія гандлёва-рабаўнічыя атрады. Гэтым словам пазней пачала называцца змешаная славяна-скандынаўская праслойка, якая кантралявала гандаль рабамі і інш. таварамі з Хазарыяй, Арабскім халіфатам і Візантыяй, а потым падпарадкавала племянныя княствы і ўзначаліла ўтварэнне дзяржавы. Не выключана, што да ўтварэння пануючай дынастыі *Рурыкавічаў* мелі дачыненне выхадцы з в-ва Руген. Іншыя версіі паходжання назвы Р. (спробы звязаць яе з загадкавым народам «hros» візантыйскага аўтара 6 ст. Захарыя Рытара або з р. Рось у Сярэднім Падняпроўі) значна горш адпавядаюць сукупнасці фактаў. Вял. ролю ў культ. кансалідацыі Р. адыграла прыняцце ў 988 хрысціянства з Візантыі. Да пач. 11 ст. скандынаўскі кампанент Р. канчаткова славянізаваўся. З гэтага часу Р. набывае характар правасл. слав. дзяржавы, у межах якой пачаўся працэс зліцця стараж. плямён у агульны ўсх.-слав. («рускі» ў тагачасным сэнсе) этнас. Аднак да 13 ст. гэты працэс не быў скончаны — захоўваліся выразныя мясц. асаблівасці, што дало магчымасць у далейшым утварыцца на тэр. Р. некальнім этнасам.

У царк. крыніцах і летапісах 12—13 ст. ёсць шмат прыкладаў выкарыстання назвы «Р.» у якасці палітоніма і этноніма, у т.л. і адносна тэр. Беларусі. Ігумен Даніїл у час паломніцтва ў Іерусалім ставіў лампаду «за всю Рускую землю» і маліўся за рускіх князёў, у т.л. за менскага кн. Глеба Усяславіча. Епіскап Кірыла Тураўскі адзначаў, што ён «рожден и воспитан града та Турова в Руской стране». У полацкай грамаце 1264 падкрэсліваецца, што «Руськая земля слывет Полочьская». Такі ж сэнс тэрміна пераважае ў замежных крыніцах. Рыжскі храніст пач. 13 ст. Генрых Латвійскі называе «рускім каралём» полацкага кн. Уладзіміра, а польская «Вялікая хроніка» — галіцка-валынскага кн. Данілу Раманавіча. Там жа Берасце названы «горадам Русі». Разам з тым у летапісах сярэдзіны 12 ст. і пазней сустракаецца паняцце «Р.» у вузкім сэнсе, якое тычылася толькі раёна Кіева—Чарнігава—Пераяслава. У гэтым сэнсе Р. супрацьпастаўлялася Наўгародскай, Полацкай, Суздальскай, Галіцкай землям. Мабыць, вузкае значэнне назвы «Р.» склалася ў 10—пач. 11 ст., калі азначаны абшар быў асабістым уладаннем кіеўскага князя — гэтак жа, як дамен караля Францыі атрымаў назву «Іль-дэ-Франс» («востраў франкаў»). Меркаванні аб тым, што вузкі сэнс папярэднічаў шырокаму, фактамі не пацвярджаюцца. Шырокае значэнне назвы «Р.» трывала захоўвалася і пасля татарскага нашэсця 1237—40, калі яе тэрыторыя апынулася ў складзе розных дзяржаў, як залежных ад Арды — Вял. княства Уладзімірскага (пазней Маскоўскага) і Галіцка-Валынскага княства, так і суверэнных — ВКЛ, часткова Польскага і Венгерскага каралеўстваў. У гэты час тэрмін «Р.» набывае характар метаэтноніма (агульнай назвы некалькіх этнасаў, што пачалі фарміравацца). Праваслаўе пачынаюць называць «рускай верай». Зах.-валынскія землі, якія адышлі да Польшчы ў сярэдзіне 14 ст., атрымалі назву Рускага ваяводства. У складзе ВКЛ пад Р. ў шырокім сэнсе разумелі ўсю тэр. ўсх.-слав. насельніцтва, за выключэннем Верхняга Панямоння, якое да сярэдзіны 13 ст. ўвайшло ў гіст. ядро ВКЛ (на яго з таго ж часу пашыралася назва «Літва»). Разам з тым у 16 ст. фіксуецца і больш вузкае значэнне назвы Р., якое тычылася толькі ўсх. часткі сучаснай Беларусі і мела прыкладна такі ж сэнс, як і інш. рэгіянальная назвы — Валынь, Падляшша, Палессе і інш. З 17 ст. за гэтым рэгіёнам канчаткова замацоўваецца назва *Белая Русь*. Жыхары ВКЛ у межах 1569, называючы сябе «рускімі» (русінамі), часам ужо выразна адрознівалі сябе ад жыхароў Расіі («маскоўцаў») і казацкай Украіны («чаркасаў»). У той жа час у Маскве жыхароў ВКЛ называлі «літвінамі», а слав. насельніцтва Беларусі і Украіны — «беларусцамі». Аднак этнічнаму самавызначэнню перашкаджала адсутнасць агульнапрынятых саманазваў, а таксама тое, што Вял. княства Маскоўскае з 2-й пал. 16 ст. атрымала афіцыйную назву «Рускае царства». З таго часу паліт. і культурная эліта гэтай дзяржавы пачала атаясамліваць паняцці «Р.» і «Расія», што стварыла пэўныя цяжкасці ў завяршэнні этнагенезу інш. нашчадкаў стараж. Р. — беларусаў і ўкраінцаў.

*Літ.*: Гаркави А.Я. Сказания мусульманских писателей о славянах и русских. СПб., 1870; Насонов А.Н. «Русская земля» и образование территории древнерусского государства. М., 1951; Новосельцев А.П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнерусское государство и его международное значение. М., 1965; Назаренко А.В. Об имени «Русь» в немецких источниках IX—XI вв. // Вопр. языкознания. 1980. № 5; Трухачев Н.С. Попытка локализации Прибалтийской Руси на основании сообщений современников в западноевропейских и арабских источниках X—XIII вв. // Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исслед. 1980 г. М., 1981; Развитие этнического самосознания славянских народов в эпоху раннего средневековья. М., 1982; Лебедев Г.С. Эпоха викингов в Северной Европе. Л., 1985; Славяне и скандинавы: Пер. с нем. М., 1986; Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Руцкі** (Велямін-Руцкі) Іосіф (свецкае імя Іван Феліксавіч; 1573 ці 1574, маёнтак Рута, Навагародскі пав.—5.2.1637), дзеяч уніяцкай царквы, пісьменнік. Са шляхецкай кальві-

ніцкай сям'і герба «Вуж». Хрышчаны паводле правасл. абраду. Вучыўся ў Карлавым ун-це ў Празе, слухаў лекцыі па філасофіі ў Вюрцбургу, скончыў Грэчаскі калегіум у Рыме; перайшоў ва уніяцтва. З 1603 у Вільні, каля 1605—06 у Маскоўскай дзяржаве з місіянерскімі мэтамі. У 1603—06 рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі. У 1608 пастрыжаны ў манахі, дыякан, прэсвітэр. З 1608 каад'ютар мітрапаліта Іпація *Пацея*, з 1609 архімандрыт Віленскага Троіцкага манастыра, з 1612 епіскап галіцкі. У 1613—37 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі, у 1614 зацверджаны булай папы рымскага Паўла V. Арганізатар ордэна *базыльян*. Актыўна ўдзельнічаў у літ. палеміцы 1620 з Мялеціем *Сматрыцкім*. У адказ на палемічныя трактаты апошняга выдаў «Двайную віну» і «Экзамен абароны» (абодва 1621). Пісаў на старабел. і старапольскай мовах. Пакінуў багатую эпісталярную спадчыну. Адстойваў ідэі хрысціянскага адзінства. Адзін з ініцыятараў стварэння асобнай бел.-літ. уніяцкай патрыярхіі.

*Літ.*: Турук Ф. Униатский митрополит Иосиф Вельямин Рутский (1613—1637) и его значение в истории униатской западной русской церкви. Пг., 1916; Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мн., 1994.

***Уладзімір Кароткі.***


Іосіф **Руцкі**.

**Рушкавічы**, літоўскі княжацкі род, прадстаўнікі якога Кінцібут, Ванібут, Бутавіт, Віжэйк, Вішлій, Кіценій, Плікасова ўдзельнічалі ў падпісанні з Уладзіміра-Валынскім княствам *дагавора 1219*, скіраванага супраць Польшчы. У сярэдзіне 1250-х г. кн. Сірвід Р. удзельнічаў у сумесным з рус. князямі паходзе супраць мангола-татараў на Украіну. На думку рас. гісторыка І.Бяляева, Р. разам з *Булевічамі* валодалі тэр. ад Віліі да Нёмана і Свіслачы (заходняй), на У — да Бярэзіны (дняпроўскай). Літ. гісторык Э.Гудавічус лічыць, што Р. валодалі зямлёй Упіта. На думку М.Ермаловіча, іх уладанні ляжалі па суседстве з Пінскім княствам.

**Рыбакоў** Андрэй Яўгенавіч (н. 5.6.1969, Мінск), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1999). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1993). З 1993 у Бел. навук.-даследчым цэнтры дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы, з 1995 вучоны сакратар Бел. НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы. З 1998 працаваў у Дзярж. камітэце па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, гал. спецыяліст аддзела геральдыкі і генеалогіі, начальнік аддзела арганізацыйнай работы і міжнар. сувязей. З 2001 начальнік аддзела арганізацыйна-прававой, кадравай работы і міжнар. сувязей Нац. цэнтра па архівах і справаводстве (з 2002 Камітэт па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь). З 2005 дырэктар Бел. НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы. Даследуе праблемы крыніцазнаўства, дакументазнаўства, гісторыю справаводства і архіўнай справы.

*Тв.*: Арганізацыя справаводства ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы XV—XVII стст. // М.М.Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі. Мн., 1997; Галоўная і меншая канцылярыі Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // Бел. гіст. часопіс. 1998. № 3; Арганізацыя дзяржаўнага архіва Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // Архівы і справаводства. 1999. № 2; История и организация делопроизводства в Беларуси. Мн., 1999 (з Э.М.Давыдавай); Делопроизводство в Великом княжестве Литовском в XVI в. // Делопроизводство. 2001. № 1; Нормативная документация в Великом княжестве Литовском в XVI в.: состав и анализ // Архіварыус. Мн., 2001.

**Рыбчонак** Сяргей Аляксандравіч (н. 7.9.1966, г. Мінск), беларускі архівіст, гісторык. Скончыў БДУ (1990). З 1990 працуе ў Нац. гіст. архіве Беларусі ў Мінску (з 2000 заг. аддзела інфармацыі, публікацыі і навук. выкарыстання дакументаў). Даследуе пытанні генеалогіі, геральдыкі, генеалагічнага крыніцазнаўства, культуры Беларусі 16—19 ст. Складальнік і адзін з аўтараў «Малога гербоўніка навагрудзкай шляхты» (Мінск, 1997), «Гербоўніка беларускай шляхты» (т. 1, Мінск, 2002).

*Тв.*: Алелькавічы і Слуцк // Бел. гіст. часопіс. 1996. № 1; Przodkowie Adama Mickiewicza po kądzieli // Blok-Notes Muzeum Literatury im. Adama Mickiewicza. 1999. № 12/13; Akta sprawy sądowej deputowanych wojskowych przeciwko księciu Bogusławowi Radziwiłłowi o niewypłacenie pieniędzy z majątków w powiecie wilkomierskim (1664—1671) // Miscellanea Historico-Arcivistica. Warszawa, 2002. T. 13; Крыніцы па генеалогіі Беларусі (16—пач. 20 ст.): Метадычныя парады. Мн., 2003.

**Рыжскі езуіцкі калегіум**. Існаваў у г. Рыга ў 1582—1621. Фундацыйны акт выдаў 25.6.1582 кароль Стафан Баторый. Калегіум быў уладкаваны ў былым кляштары цыстэрцыянак пры касцёле св. Марыі Магдалены. 4-класная школа адчынена ў 1584. У 1587 гар. ўлады выгналі езуітаў з Рыгі. Вернуты ў 1591. З 1598 пры калегіуме існавала бурса, працавалі тэатр, б-ка. Дзейнасць калегіума спынілася пасля заняцця Рыгі шведамі ў 1621. Акрамя навучання езуіты займаліся пашырэннем каталіцтва, казалі пропаведзі на польскай, нямецкай, латышскай і літ. мовах.

**Рыконцкі Троіцкі касцёл**, помнік пратэстанцкага храмабудаўніцтва канца 16 ст.—пач. 17 ст. з рысамі готыкі і


**Рыконцкі Троіцкі касцёл**.



Рэнесансу. Пабудаваны з цэглы ў в. Рыконты Троцкага пав. (цяпер в. Рыкантай Тракайскага р-на, Літоўская Рэспубліка). Звычайна датуецца 1555, па першым упамінанні тут пратэстанцкай абшчыны. Фундацыя належыць уладальніку маёнтка кашталяну жамойцкаму А.Тальвашу (памёр у 1628), з чаго вынікае, што будаўніцтва храма адбылося на мяжы 16—17 ст. У 1688 маёнтак перайшоў да Агінскіх. Як пратэстанцкі збор існаваў да 1713, пазней перароблены пад Троіцкі касцёл, дзейнічае і цяпер. Невял. прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты невысокім 2-схільным дахам з вальмамі над 3-граннай алтарнай сцяной і атыкавым франтонам на бязвежавым гал. фасадзе. Вуглы ўмацаваны характэрнымі для позняй готыкі ўзаемна перпендыкулярнымі контрфорсамі пастаяннага прамавугольнага сячэння, пад 2-схільнымі дошкамі-адхонамі для вадасцёку. Вокны маюць стральчатыя арачныя завяршэнні, якія аблямоўваюць вял. паўцыркульныя арачныя нішы, што стварае рэнесансную пластыку бакавых фасадаў. Паверсе сцен будынак апярэзвае развіты прафіляваны ордэрны карніз. Франтон, які закрывае тарэц даху, мае складаную 3-ярусную кампазіцыю. Ніжні ярус — прамавугольны атык, аздоблены аркатурай з плоскіх паўцыркульных арачных ніш, падзеленых больш высокімі пілястрамі, якія раскрапоўваюць фрыз вянчаючага антаблемента. Другі, трапецападобны, і верхні, трохвугольны, ярусы больш сціплыя і падкрэслена геаметрычныя па малюнку. Інтэр'ер 3-нефавы, залавага тыпу. Строгасць і выразнасць архітэктурна-мастацкага вырашэння разам з адсутнасцю алтарнай апсіды выяўляюць пратэстанцкі генезіс храма.

*Тамара Габрусь.*

**«Рымскія дзяянні»** («Р ы м с к і я г і с т о р ы і»), сярэдневяковы зборнік дыдактычных і псеўдагістарычных аповесцей, навел і прытчаў; помнік перакладной бел. літаратуры 17 ст. Складзены, відаць, у Англіі ў 13 ст. на падставе зах.-еўрап., антычных і блізкаўсходніх крыніц. У самых поўных рэдакцыях змяшчаў каля 180 твораў, частка іх была звязана са стараж.-рымскімі падзеямі (адсюль назва), у т.л. дзеяннямі імператараў Веспасіяна, Ціта, Даміцыяна, Траяна, Гардыяна, Максіміяна. Прызначаліся пераважна для выхаваўчых мэт, хоць у зборніку нямала белетрыстычнага матэрыялу для займальнага чытання. У канцы кожнага твора падаюцца маралізатарскія тлумачэнні-павучанні, некаторыя з выразнай рэліг. афарбоўкай. Сюжэты, вобразы, прытчы «Р.дз.» выкарыстоўвалі хрысціянскія прапаведнікі, настаўнікі, пісьменнікі, у т.л. — Бакача, Шэкспір, Вальтэр. На бел. мове вядомы 2 рукапісы «Р.дз.»: Магілёўскі (1688, дэфектны, без канца) і Ціханравава (1729). У першым 36, у другім 39 твораў. Паводле свайго складу бел. пераклад адносіцца да найб. стараж. рэдакцый. У бел. зборніках змешчаны не толькі павучальныя гісторыі-прытчы і легенды (як ілюстрацыі да зместу пэўных маральных правіл паводзін людзей: пра няверную жонку, чалавечую няўдзячнасць, пра справядлівасць і высакароднасць, пра спакусы д'ябла, страшны суд і г.д.), але і такія папулярныя творы сярэдневяковай літаратуры, як «Жыціе Аляксея, чалавека божага», «Жыціе Яўстафія Плакіды», скарочаная рэдакцыя антычнага рамана *«Гісторыя пра Апалона Цірскага»*, гісторыя пра св. Рыгора (рымскага папу канца 6—пач. 7 ст.) і інш. У мове бел. перакладу «Р.дз.» нямала архаізмаў і русізмаў, хоць непасрэднай крыніцай для яго, хутчэй за ўсё, паслужыў польскі тэкст.

*Публ.*: Римские деяния. Вып. 1—2. СПб., 1877—78.

*Літ.*: П т а ш и ц к и й С.Л. Средневековые западноевропейские повести в русской и славянских литературах. [Т.] 1. Истории из Римских деяний. СПб., 1897.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Рымша** Андрэй (1550?, в. Пяньчын Навагародскага ваяв.—1599?), паэт, заснавальнік жанру панегірычнай паэзіі ў старажытнай беларускай літаратуры. Адукацыю, магчыма, атрымаў у Астрожскай школе на Валыні. З 1572 на ваеннай службе ў К.*Радзівіла* Перуна. Удзельнік ваенных паходаў. З 1582 жыў у Дзевянішках Ашмянскага пав., у 1589 падстараста ў Біржах. У 1581 выдаў у Астрогу на старабел. мове вершаваную «Храналогію» календарнага тыпу. Аўтар панегірычных вершаў на старабел. мове на гербы А.Валовіча (1585), Л.Сапегі (1588), Ф.Скуміна (1591); некалькі вершаў на старабел. мове былі выдадзены ў «Зборніку павучанняў» (Вільня, 1585). Паэма «Дзесяцігадовая аповесць пра ваенныя справы... Крыштофа Радзівіла» («Dekeretos akroama...», Вільня, 1585), напісаная сілабічным вершам у выглядзе дыярыуша, — адзін з найб. удалых эпічных твораў пра кампанію 1572—82 у час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Пераклаў з лацінскай на польскую мову твор А.Поляка «Хараграфія, або Тапаграфія... Святой зямлі» (Вільня, 1595).

*Тв.*: У кн.: Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959.

*Літ.*: Г а р э ц к і М. Андрэй Рымша // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. 4 выд. Мн., 1926; S a j k o w s k i A. Staropolska miłość. Poznań, 1981; T o p o l s k a M. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renessansu i Baroku. Wrocław, 1984.

*Анастасія Скеп'ян.*

**Рымша** (Rimša) Эдмундас Антанас (н. 15.12.1948, в. Скіра Ракішкскага р-на, Літва), літоўскі гісторык, геральдыст, генеалог. Д-р гуманітарных навук (1993), дацэнт (1995). Скончыў Вільнюскі ун-т (1977). Працаваў у сістэме Мін-ва культуры, з 1981 — у Ін-це гісторыі Літвы, старшы навуковы супрацоўнік, у 2003—05 выконваючы абавязкі загадчыка аддзела гісторыі ВКЛ. Адначасова з 1991 выкладае ў Вільнюскім, у 1995—98 — у Каўнаскім ун-це. Узначальвае Геральдычную камісію Літвы пры Прэзідэнце Рэспублікі. Даследуе праблемы геральдыкі, сфрагістыкі, генеалогіі ВКЛ, гісторыю гарадоў і гар. права ВКЛ. Аўтар кніг «Гербы горада Каўнаса XV—XX ст.» («Kauno miesto herbas XV—XX a.», Вільнюс, 1994), «Геральдыка Літвы» («Lietuvos heraldika», кн. 1—2, Вільнюс, 1998—2004; англійскі пераклад: «The Heraldry of Lithuania», Вільнюс, 1998), «Пячаткі гарадоў Вялікага княства Літоўскага» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės miestų antspaudai», Вільнюс, 1999; Дзярж. прэмія ў галіне навукі 2001), «Геральдыка: З мінулага ў сучаснасць» («Heraldika: Iš praeities į dabartį», Вільнюс, 2004, 2 выданні; англійскі пераклад: «Heraldry: Past to Present», Вільнюс, 2005).

*Тв.*: Lietuvos privačių miestų herbai // Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. Vilnius, 1992. Kn. 2; Pieczęcie Olgierda, wielkiego księcia litewskiego — dane historiograficzne a rzeczywistość // Heraldyka i okolice, Warszawa, 2002.

**Рынгольд** (Рынгальт), міфічны князь беларуска-літоўскіх летапісаў. Сын новагародскага кн. Альгімунта. Паводле храніста М.*Стрыйкоўскага*, у 1200 са згоды ўсіх станаў заняў трон у Новагародку. Першы прыняў тытул князя літоўскага, бо княжыў не толькі «на Новегородцы и на иншых городех руских», але і ў Жамойці і Літве. *«Хроніка Літоўская і Жамойцкая»* называе яго князем літоўскім, жамойцкім і новагародскім. Як вынікае з летапісных звестак, Р. валодаў землямі на Пн да р. Вілія, на У да лініі Койданаў—Магільна, на З землямі да Мазоўшы з г. Гародна, Берасце, Дарагічын, Бельск, Мельнік, Бранск, Сураж; яму належала Палессе з Пінскам, Туравам, Мазыром, а таксама Чарнігаў, Старадуб, Карачаў. Атрымаў перамогу над кааліцыяй татараў і рус. князёў у *Магільнянскай бітве 1284*. Памёр у Новагародку, паводле адной з версій, без нашчадкаў, на ім скончыўся род кн. *Палемона*. Паводле інш. звестак, меў 3 сыноў, адным з якіх быў *Войшалк*. *Хроніка Быхаўца* называе сынам Р. кн. *Міндоўга*. Такую ж генеалогію прыняў і Стрыйкоўскі.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

***Валерый Пазднякоў.***

**Рысінскі** Саламон Фёдаравіч (псеўд. Pantherus; і560?, в. Рысін Полацкага ваяв.—13.11.1625), паэт, філосаф, этнограф, парэміёлаг, педагог. Нарадзіўся ў сям'і дробнамаянтковага шляхціца Фёдара Ануфрыевіча. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. Настаўнічаў у Жамойці і Малой Польшчы, суправаджаў сваіх выхаванцаў за мяжу. Прымаў удзел у арганізацыі пратэстанцкай школы у Слуцку, для якой напісаў статут. Першы яго твор «Дзве кнігі лістоў», выдадзены ў 1587 у Альтдорфе, дзе ён разам са сваімі падапечнымі вучнямі слухаў лекцыі ва унце (у іматрыкуляцыйных актах ун-та 2.12.1586 ён запісаў сябе як Саламон Пантэрус, леўкарусус, г.зн. беларус; Леўкарусіяй ён называў сваю радзіму і ў пісьме да нямецкага вучонага К.Рытэрсгузіуса). Пасля 1600 Р. на службе ў К.*Радзівіла* Перуна і яго сына К.*Радзівіла* як прыдворны паэт, перакладчык і выхавацель дзяцей, складаў надмагільныя надпісы (эпітафіі) для членаў княжацкай сям'і і інш. асоб. Віленская


EPISTOLARVM SOLOMONIS PANTHERI, LIbri duo.

Verum haud quisquam quis sis, ut Epistola dicit: Fallor? an hic etiam Proteus esse cupis?

S.

ALDORPHII
In Officina Typographica Nicolai Talæi.
CIↃ· IↃ· XIIIC.

С.Ф.**Рысінскі**. Дзве кнігі лістоў. Альтдорф. 1587. Тытульны ліст.

пратэстанцкая абшчына даручыла яму перакласці на польскую мову псалмы цара Давіда. Прымаў удзел у падрыхтоўцы выданняў *Любчанскай друкарні* П.Б.Кміты, пісаў панегірычныя вершы. Аўтар «Кароткага пераказу спраў, здзейсненых святлейшым князем Крыштофам Радзівілам...» (Любча, 1614), куды ўключана і яго вершаванае апісанне *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Найб. значны твор Р., якому ён прысвяціў каля 30 гадоў жыцця, — зборнік «Тысяча восемсот польскіх прыказак...», што змяшчаў прыказкі, прымаўкі і прытчы, выпісаныя з розных крыніц (выдадзены ў 1618 у Любчы, перавыдаваўся там жа ў 1621 і каля 1622?, у Кракаве і Любліне). У ім Р. параўноўваў мясцовыя бел. прымаўкі з лацінскімі, нямецкімі, італьянскімі, польскімі і інш. Разам з Рытэрсгузіусам падрыхтаваў каментарыі да творчасці рымскага паэта Аўзонія (засталіся ў рукапісе).

*Тв.*: Бел. пер. — Эпітафіі // Беларуская літаратура. Мн., 1981. Вып. 9.

*Літ.*: Порецкий Я. Соломон Рысинский = Solomo Pantherus Leucorussus: Конец XVI—нач. XVII вв. Мн., 1983.

***Аляксандр Коршунаў.***

**рыскун**, службовая асоба ў памежных валасцях ВКЛ у 15—16 ст. Сачылі за дзярж. мяжой, займаліся пагранічнай выведкай, кантралявалі пераход цераз мяжу іншаземцаў, дапытвалі іх і г.д. Пасада Р. была незалежнай ад *намесніка*, мабыць, выбіраўся ў валасцях.

*Літ.*: Bardach J. Ryskun i szpieg // Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970.

**рыторыка** (грэч. rhētorikē), красамоўства, мастацтва прамовы, навука дасканалай аргументацыі, пераканаўчага і прыгожага выкладу, а таксама падручнік па ёй. Р. з'явілася ў Стараж. Грэцыі каля 5 ст. да н.э. ў практыцы сафістаў, дасягнула глыбокай тэарэтычнай распрацоўкі ў працах Арыстоцеля (4 ст. да н.э.), які вызначыў большасць стылістычных фігур, што ўжываюцца ў гутарцы і л-ры. Яго здабыткі атрымалі далейшае развіццё ў Стараж. Рыме, у працах Цыцэрона (1 ст. да н.э.) і Квінціліяна (1 ст. н.э.). Працы апошняга, а таксама ананімная Р. «да Гірэна» (каля 2 ст. н.э.) былі вядомыя ў сярэдневякоўі (з 13 ст. таксама працы Арыстоцеля) і служылі асновай для ўсіх курсаў па Р. У сярэдневякоўі разам з граматыкай і дыялектыкай (логікай) Р. ўтварала трывіум — базавы курс зах.-еўрапейскай адукаванасці (у складзе «сямі вольных мастацтваў»). Р. распрацоўвала стылістычныя і кампазіцыйныя прыёмы вуснай і пісьмовай мовы і паўплывала на развіццё дзелавога пісьменства, эпісталаграфіі, *казання*. Знойдзеныя ў 15 ст. працы Цыцэрона і інш. лацінскіх і грэчаскіх аўтараў папоўнілі досвед гуманістаў у Р. Найб. адметнай з'явай рэнэсансавай Р. сталі працы Эразма Ратэрдамскага (пач. 16 ст.) і Пятра Рамуса (сярэдзіна 16 ст.), якія зрабілі значны ўплыў на пратэстанцкую гуманітарную адукацыю. З 16 ст. ў Зах. Еўропе з'яўляліся Р. на нар. мовах. У каталіцкай адукацыі, ачоленай езуітамі, панавалі ранейшыя аўтарытэты антычнай Р. На іх арыентаваліся найб. папулярныя ў езуіцкай адукацыі падручнікі, такія, як «Пра мастацтва рыторыкі» партугальца Цыпрыяна Саарэса (1568), творы якога выдаваліся таксама ў Вільні і Нясвіжы. Згодна з эстэтыкай барока, езуіты разглядалі Р. як універсальную тэорыю ўсіх відаў слоўнага мастацтва і надавалі ёй шмат увагі ў адукацыі. Праграму езуіцкіх вучэльняў у ВКЛ старанна пе-



раймалі уніяцкія і правасл. школы, дзе выкладанне Р. таксама вялося на лац. мове. Першая Р. ў Беларусі — складзены на лац. мове каля 1629 рэктарам Слуцкай гімназіі кальвіністам Р.*Адамам* «Кампендыум рытарычны» (Любча, 1630). Еўрапейскую вядомасць набыў падручнік выкладчыка езуіцкіх навучальных устаноў у Полацку, Нясвіжы і Вільні З.*Лаўксміна* «Практыка рыторыкі» (Бранева, 1648), у якім тэарэтычныя веды спалучаліся з практыкаваннямі і ўзорамі. Лекцыі па Р. выдаў рэктар Віленскай акадэміі К.*Каяловіч* (Вільня, 1654). З 17—18 ст. на лац. мове захавалася шмат рукапісных курсаў па Р. і вытрымак з антычных прац па Р., якія ананімна выдаваліся ў Вільні, Полацку і Нясвіжы. У працах па Р. звычайна разглядаліся тропы, фігуры, перыяд і яго складаныя часткі, рытарычныя крыніцы (агульныя месцы ці топіка), хрыя (разважанне) і яе складаныя часткі. Р. служыла тэорыяй л-ры, асабліва прозы, у склад Р. залучалася *паэтыка*. З сярэдзіны 18 ст. Р. ў ВКЛ ствараліся на польскай мове, напрыклад, «Навука пра красамоўства» (Вільня, 1763) прафесара Віленскай акадэміі Ю.*Барэйкі*. Р. ў гэты час набылі больш практычны характар, пытанні аргументацыі адышлі да логікі. Напрыканцы 18 ст. Р. страціла актуальнасць як гуманітарная навука, перастала служыць крыніцай правіл для л-ры і дыскрэдытавала сябе як набор фармальных і штучных правіл гутаркі.

*Публ.*: Prokopovič F. De Arte Rhetorica Libri X: (Untersuchung, Kommentar und Herausgabe) / Hrsg. R. Lachmann. Köln; Wien, 1982; Epitome praeceptorum rhetoricorum (Pocajiv 1764): Die lateinische Schulrhetorik des Basilianerordens aus d. J. 1764 / Hrsg. O. Horbatsch. München, 1992; Liauksminas Ž. Rinktiniai raštai / Sud. B.Genzelis. Vilnius, 2004.

*Літ.*: Порецкий Я.И. Слуцкий компендиум по риторике // Педагогика и психология. Мн., 1976. Вып. 9; Маслюк В.П. Латиномовні поетики і риторики XVII— першої половини XVIII ст. та їх роль у розвитку теорії літератури на Україні. Київ, 1983; Ulčinaitė E. Teoria retoryczna w Polsce i na Litwie w XVII wieku: Próba rekonstrukcji schematu retorycznego. Wrocław, 1984; Korolko M. Sztuka retoryki: Przewodnik encyklopedyczny. Warszawa, 1990; Lichański J.Z. Retoryka od średniowiecza do baroku: Teoria i praktyka. Warszawa, 1992.

***Ігар Клімаў.***

**рыцары** (ад ням. Ritter коннік), прадстаўнікі прывілеяванай сацыяльнай катэгорыі (рыцарства) у краінах Зах. і Цэнтр. Еўропы ў перыяд феадалізму. У шырокім сэнсе — саслоўе свецкіх феадалаў, у вузкім — дробныя свецкія феадалы, конныя воіны, якія рэкрутаваліся з васалаў і за атрыманыя невял. зямельныя маёнткі — феод (лен) прымалі на сябе абавязкі вайсковай службы з поўным рыцарскім узбраеннем у войску ці атрадзе свайго сеньёра. У 10—11 ст. стваралі асобную групу ваеннаслужылых феадалаў, якія ў далейшым аформіліся юрыдычна ў дваранскае саслоўе. Удзельнічалі ў ваенных паходах, у т.л. ў крыжовых, у міжусобіцах феадалаў, у падаўленні паўстанняў сялян і гараджан. Каб стаць Р., трэба было быць дастаткова багатым, мець баявога каня, меч, панцыр, шчыт, шлем і інш. Для пасвячэння ў Р. існаваў спец. рытуал: урачыстае апяразванне мячом, надзяванне шпор, сімвалічны ўдар мячом (рабіў сеньёр у прысутнасці васалаў). Перад пасвячэннем Р. павінен быў паказаць вайсковую вывучку, фізічную сілу, прынесці прысягу аб выкананні патрабаванняў рыцарскага кодэкса, пасля пасвячэння — захоўваць вернасць сеньёру, гатоўнасць абараняць хрысціянскую царкву, дапамагаць слабым і хворым членам рыцарскіх сем'яў, падтрымліваць справядлівасць. Адным з патрабаванняў рыцарскага кодэкса было пакланенне сваёй выбранніцы — жанчыне з дваранскага саслоўя. У 16—17 ст. значная частка Р. увайшла ў дваранскае саслоўе, астатнія ператварыліся ў ваенных наёмнікаў.

У ВКЛ Р. называлі коннікаў-феадалаў. У *прывілеі 1387* вял. кн. Ягайлы гаворыцца аб «рыцарах або баярах». У *прывілеі 1447* вял. кн. Казіміра пералічваюцца розныя катэгорыі феадалаў і сярод іх Р. (княжаты, Р., шляхціцы, баяры). Пачынаючы са *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529*, у тэкстах прававых актаў называюцца «высакародныя Р.». У *Віленскім прывілеі 1563* вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста гаворыцца пра «стан рыцарскі шляхецкі». Гэтыя прыклады сведчаць, што тэрмін Р. быў ідэнтычны тэрміну «шляхціц», а раней і тэрміну «баярын».

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Рыцы-Дзаноні** (Rizzi-Zannoni) Джавані Антоніо (1736—1814), італьянскі картограф і астраном. Вучыўся ў Падуанскім ун-це, працаваў у Парыжы, Неапалі. Па ініцыятыве вядомага мецэната навагародскага ваяводы Ю.А.*Ябланоўскага* ў 1772 стварыў і апублікаваў у Лондане і Парыжы вялікую (2 x 1,8 м) карты Рэчы Паспалітай. З удакладненнямі і дапаўненнямі вядома таксама ў выглядзе атласа на 24 аркушах (51 x 31,5 см, маштаб 1:692 000).

*Літ.*: Moreland C., Bannister D. Antique Maps. London, 1993; Sirko M. Zarys historii kartografii. Lublin, 1999; Imago Polonia: Dawna Rzeczpospolita na mapach, dokumentach i starodrukach w zbiorach Tomasza Niewodniczańskiego. T. 2. Warszawa, 2002; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў. Мн., 2004.

***Леў Казлоў.***

**рэасумпцыя** (лац. reasumpcio паўторнае зацвярджэнне), пацвярджэнне легітымнасці абрання дэпутатаў і зацвярджэнне складу Трыбунала ВКЛ. Гал. роля пры Р. належала віленскаму ваяводзе, які дапускаў дэпутата ў лік суддзяў у трыбунальскае кола ці, наадварот, прызнаваў слушнымі пратэстацыі супраць яго абрання («пускаў пад ласку»). У некаторых выпадках віленскі ваявода мог аддаць канчатковае рашэнне аб легітымнасці абрання на разгляд самога Трыбунала. Часта на Р. легітымнасць абрання дэпутатаў вырашалася ваяводай на падставе паліт., а не прававых меркаванняў. Паліт. значэнне Р. ўзрасло ў апошнія гады панавання Аўгуста II [1733—63]. Прычынай была справа аб праве на *«нойбургскія маёнткі»*. На Трыбунале 1731 барацьбу груповак на карысць Сапегаў вырашыла пазіцыя віленскага ваяводы К.Агінскага. Таксама вял. паліт. значэнне мелі Трыбуналы 1732, 1741, 1743, 1755 і 1756. На Р. гэтых Трыбуналаў разгортвалася паліт. супрацьстаянне, якое ледзь не перарастала ва ўзброеныя канфлікты і часта вырашалася толькі пасля ўмяшання каралеўскага двара. Сумяшчэнне пасад віленскага ваяводы і вял. гетмана ВКЛ М.С.Вішнявецкім (памёр у 1744) і М.К.Радзівілам Рыбанькам (памёр у 1762) прывяло да ўзмацнення іх пазіцый на Р. Трыбуналаў. Чартарыйскія дамагаліся, каб пасады віленскага ваяводы і вял. гетмана ВКЛ належалі роз-



ным асобам. Такой жа думкі прытрымліваўся каралеўскі двор. Таму пасля смерці Радзівіла пасаду вял. гетмана ВКЛ атрымаў М.Ю.Масальскі, а пасаду віленскага ваяводы — К.С.Радзівіл Пане Каханку. Але гэта не перашкодзіла сілавому вырашэнню Р. Трыбунала 1763, бо К.С.Радзівіл замест рэгулярных войск ВКЛ прывёў свае надворныя харугвы.

*Андрэй Мацук.*

**«Рэвізія Кобрынскай эканоміі...»** («Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 г. королевским ревизором Дмитрием Сапегою, с присовокуплением актов браславского земского суда, относящихся к Кобринской архимандрии»), выданне гаспадарча-юрыдычнай дакументацыі *Кобрынскай эканоміі* сярэдзіны 16 ст., ажыццёўленае Віленскай археаграфічнай камісіяй у 1876. Публікацыя змяшчае кнігу з вынікамі праведзенай у 1563 рэвізіі *валочнай памеры* ў эканоміі (на польскай мове, арыгінальная назва кнігі і яе пачатак не зберагліся). У ёй пералічаны гаспадары пляцаў у г. Кобрын, Дабучын (Пружаны), Гарадзец з пазначэннем колькасці сядзібнай, агароднай і палявой зямлі; сял. гаспадаркі ў Кобрынскай, Чаравачыцкай, Вежкаўскай, Дабучынскай, Блудзенскай і Гарадзецкай валасцях (падзяляліся на 18 войтаўстваў) з пазначэннем велічыні надзелаў і павіннасцей. Адзначаны 98 гаспадарскіх сёл, за цяглымі сялянамі замацаваны 612 валок ворнай зямлі, за гаспадарскімі фальваркамі — 89 валок. У Кобрыне адзначаны гар. раёны, вуліцы, 4 царквы. У дадатку надрукаваны 4 дакументы з актавай кнігі браслаўскага земскага суда 1740—49: дэкрэт вял. княгіні Боны 1541, якім кобрынскай Спаскай царкве перададзены 2 надзелы зямлі; 3 судовыя прыгаворы 1747 па справе кобрынскага архімандрыта са шляхтай за права валодаць маёнткамі Хадынічы і Навасёлкі (ёсць звесткі з канца 14 ст.). У прадмове С.Шаўковіча выкладзена гісторыя Кобрынскай эканоміі, Кобрына, Дабучына, Гарадца, прыведзены звесткі пра валочную памеру, павіннасці насельніцтва, праваслаўныя цэрквы Кобрына, Лепясоўскі манастыр, заўвагі пра мову апублікаванай кнігі. Публікацыя забяспечана імянным, геагр. і прадметным паказальнікамі. Выданне — каштоўная крыніца па сац.-эканам. гісторыі Беларусі, гіст. геаграфіі і анамастыцы.

*Валерый Пазднякоў.*

**«Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных у былым Вялікім княстве Літоўскім...»** («Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском, с присовокуплением грамот и привилегий на входы в пущи и на земли, составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г., с прибавлением другой актовой книги, содержащей в себе привилегии, данные дворянам и священникам Пинского повета, составленной в 1554 г.»), выданне гаспадарча-юрыдычнай дакументацыі дзяржаўных і прыватных уладанняў ВКЛ сярэдзіны 16 ст., ажыццёўленае Віленскай археаграфічнай камісіяй у 1867. Змяшчае «Реистр списанья и выведанья пущ и переходов звериных», складзены ў 1559 Р.Б.Валовічам па даручэнні вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. У дакуменце дадзена апісанне дзярж. пушчаў у паўн. Украіне, паўд. і зах. Беларусі і Літве з пазначэннем іх межаў на карце (не збераглася). Адзначаны «отступы» — месцы палявання, сёлы ў пушчах, колькасць у іх «службаў» і людзей. Адначасова з правядзеннем апісання зроблена праверка правоў навакольнай шляхты на валоданне землямі і карыстанне пушчамі і складзены «Реистр списанья и оказыванья привилеев и листов на именья», дзе перапісаны граматы вял. кн. Аляксандра, Жыгімонта II Аўгуста, Боны, пінскага кн. Ф.І.Яраславіча, пінскай княгіні Марыі, дадзеныя на карысць пінскай, кобрынскай, камянецкай, давыд-гарадоцкай, слонімскай, мсцібогаўскай, ковенскай і троцкай шляхты. Мэтай апісання было ўпарадкаванне дзярж. лясной гаспадаркі і вяртанне ў дзярж. скарб незаконна захопленых шляхтай зямель. З аналагічнымі мэтамі ў 1554 адміністрацыяй Боны быў складзены «Реестр списованья привильев земян, шляхты повету Пинского и попов, наданья замку Пинского», дзе перапісаны граматы на землі Жыгімонта I Старога, Боны, Яраславіча і Марыі, выдадзеныя шляхце і правасл. духавенству Пінскага і Давыд-Гарадоцкага паветаў, а таксама шляхецкія акты на куплю-продаж зямель. Праверка правоў прыватных землеўладальнікаў на маёнткі была важным мерапрыемствам Боны, састаўной часткай *валочнай памеры* на Палессі. Выданне з'яўляецца каштоўнай крыніцай па сац.-эканам. гісторыі Беларусі, змяшчае вялізны матэрыял па гіст. геаграфіі, анамастыцы, генеалогіі. Паказальнікі асабовых імён, геагр. назваў і прадметаў былі выдадзены асобна — «Алфавітны паказальнік да актавай кнігі, выдадзенай Віленскай археаграфічнай камісіяй у 1867 г.: Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных у былым Вялікім княстве Літоўскім...» (Вільня, 1873).

*Валерый Пазднякоў.*

**рэгент** (ад лац. regens правіцель), кіруючая пасада ў канцылярыях ВКЛ. У вял. канцылярыі ВКЛ вядомы з 1590-х г., у меншай — з пач. 17 ст. Прызначаўся *канцлерам* (*падканцлерам*), зацвярджаўся каралём і выконваў свае абавязкі да змены канцлера (падканцлера). Быў адным з *сакратароў*, заносіў дакументы ў кнігі Метрыкі ВКЛ і выдаваў іх афіцыйныя копіі-выпіскі (пазнейшы абавязак метрыканта). Правіў і падаваў на подпіс каралеўскія, канцлерскія і падканцлерскія дакументы, выконваў абавязкі *натарыуса*. У выпадку смерці канцлера ці падканцлера выконваў іх абавязкі. З 1776 Р. вял. канцылярыі ВКЛ удзельнічаў у пасяджэннях *задворнага асэсарскага суда*. Р. былі ў земскіх і гродскіх судах, магістратах, кансісторыях і інш., дзе яны ўдзельнічалі ў складанні актаў і адказвалі за іх зберажэнне.

**«Рэгесты крыніц па гісторыі Літвы...»** («Regesta źródłowe do dziejów Litwy od czasów najdawniejszych aż do unji z Polską», «Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem»), зборнік рэгестаў па гісторыі Літвы, Жамойці і некаторых заходнябалцкіх плямён (яцвягаў, галіндаў, надроваў, скальваў) з найдаўнейшых часоў да пачатку панавання ў ВКЛ вял. кн. Гедзіміна (1315). Складзены на лацінскай мове і выдадзены Г.*Пашкевічам* (т. 1. Варшава, 1930). Працяг выдання не здзейснены. Змяшчаюць з вычарпальнай паўнатой асобныя паведамленні з прац антычных аўтараў (Тацыта, К.Пталамея), сярэдневяковых гісторыкаў (Касіядора,

Іардана, Я.Длугаша, Пятра з Дусбурга, В.Кадлубака, Генрыха Латвійскага і інш.), нямецкіх і польскіх аналаў, рус. летапісаў (Іпацьеўскага, Лаўрэнцьеўскага, наўгародскіх і інш.). Размешчаны ў храналагічным парадку, 1-ы з іх — паведамленне Тацыта пра эстаў (98 г. н.э.), апошні — паведамленне з хронікі Германа з Вартберга пра г. Кукенойс (1315). Рэгесты перадаюць кароткі змест паведамлення, некаторыя цалкам яго цытуюць (калі крыніца на лацінскай мове), у асобных ёсць арыгінальныя напісанні геагр. назваў (на стараж.-рус. мове лацінскім шрыфтам). Усяго змешчаны 853 рэгесты і ў дадатку 6. Матэрыялы зборніка асвятляюць стараж. гісторыю балцкіх народаў, працэс утварэння ВКЛ, уключэння ў яго склад бел. зямель, ваенныя і мірныя ўзаемадачыненні ВКЛ з суседнімі дзяржавамі. Дзякуючы паўнаце сабраных звестак выданне мае вял. навуковую каштоўнасць.

***Валерый Пазднякоў.***

**рэгімент** (ад лац. regimentum кіраванне, камандаванне), буйная вайсковая часць у Рэчы Паспалітай у 17—18 ст. Звычайна Р. называлі полк з аднаго ці больш батальёнаў, эскадронаў чужаземнага аўтараменту (наёмная пяхота, драгуны, рэйтары, аркебузеры). У войску ВКЛ у 18 ст. Р. называлі палкі пяхоты і гвардыі.

**рэгіментар**, 1) у Рэчы Паспалітай у 17—18 ст. часовы намеснік *гетмана*, які выконваў свае абавязкі ў час адсутнасці гетмана ў выпадку смерці, палону і г.д. Камандаваў усім войскам Польшчы або ВКЛ (генеральны Р.) або яго часткай, у баявых дзеяннях або на зімовых кватэрах. Прызначаўся каралём. 2) Камандуючы ўзбр. сіламі шляхецкіх *канфедэрацый* у 16—18 ст.

**рэестры** (ад лац. regesta), спісы, вопісы, а таксама кнігі ў судах ВКЛ, куды рабілі запісы аб справах, што падлягалі судоваму разгляду. Галоўныя з Р.: с у м а р н ы я, у якія ў *гродскіх судах* заносілі кароткі змест спраў па даўгавых абавязацельствах, аб выгнанні з маёнтка, беглых сялянах, а ў *земскіх судах* — аб закладных здзелках ці вызваленні ад іх; з в ы ч а й н ы я (ардынарныя), у якія ў гродскіх судах заносілі крымінальныя справы пра найб. цяжкія злачынствы (разбоі, грабяжы і інш.), у земскіх судах — усе грамадзянскія справы; а р ы ш т а в а н ы х, у якіх у гродскіх судах вялі ўлік злачынцаў, затрыманых на месцы злачынства і аддадзеных пад суд; т а к т а в ы я, у якіх вялі запіс злачынстваў, зробленых у месцы ці паблізу ад таго месца, дзе засядаў суд; с к а р б о в ы я, у якія ў гродскіх судах заносілі справы, звязаныя з ужываннем мер і вагаў і інш., што мелі дачыненне да дзярж. скарбу. Р. гродскіх і земскіх судоў звычайна называлі «кнігі гродскія», «кнігі земскія». У *Трыбунале Вялікага княства Літоўскага* вяліся Р. апеляцый на рашэнні ніжэйшых судовых інстанцый, Р., дзе рабілі ўлік фактаў невыканання вызначэнняў трыбунала, скарг на валакіту ў ніжэйшых судах і інш. Свае Р. мела *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага*; у іх запісвалі грашовыя паступленні, улічвалі нядоімкі па падатках, скаргі насельніцтва на прычыненую шкоду і крыўды вайскоўцамі і інш.

***Генадзь Маслыка.***

**Рэйтан** Тадэвуш [1742?, в. Грушаўка Новагародскага пав. (ахрышчаны 20.8.1742, г. Ляхавічы Новагародскага пав.) — 8.8.1780], палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. Паходзіў са шляхецкага роду — уладальнікаў Грушаўкі. Вучыўся ў піярскай школе і «Калегіум нобіліум» у Варшаве. Служыў у войску. Паводле некаторых звестак, удзельнічаў у *Барскай канфедэрацыі*. Быў абраны паслом ад Новагародскага пав. на *сойм 1773—75*, дзе планавалася зацвердзіць 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. Разам з пасламі ад Новагародскага пав. С.*Корсакам* і ад Менскага пав. С.*Багушэвічам* рашуча супрацьдзейнічаў анексіі зямель дзяржавы. Намагаўся перашкодзіць утварэнню на сойме канфедэрацыі, якая простай большасцю галасоў магла зацвердзіць падзел, але большасць паслоў сойма, падкупленая замежнымі дзяржавамі, яго не падтрымала. Канфедэрацкі суд пагражаў Р. крымінальным пакараннем і канфіскацыяй маёнтка. 1.12.1773 Р. склаў маніфест, дзе канстатаваў нелегітымнасць канфедэрацыі і трактатаў пра падзел Рэчы Паспалітай. Страціў розум і быў вывезены братамі ў Грушаўку. Скончыў самагубствам. Яшчэ сучаснікі лічылі Р. нац. героем. Чатырохгадовы сойм 1788—92 абвясціў



Т.**Рэйтан**. Партрэт невядомага мастака. 2-я пал. 18 ст.

Р. «вартым нацыянальнай жалобы», а яго дзеянні — «узорам для пераймання». Р. прысвечаны шматлікія маст. творы, у т.л. аповесці Г.Жавускага, карціна Я.Матэйкі «Рэйтан — заняпад Польшчы» (1864—66), нарыс Ю.Нямцэвіча «Жыццё Тадэвуша Рэйтана» (1818) і інш. Р. услаўлены у паэме А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У сярэдзіне 19 ст. ў Грушаўцы быў устаноўлены бюст Р. (цяпер у Нац. музеі ў Кракаве), у 1993 — мемарыяльны знак. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 30.

*Літ.*: Ж а в у с к і Г. Тадэвуш Рэйтан: (З «Успамінаў пана Севярына Сапліцы, парнаўскага чэсьніка») // Спадчына. 1997. № 4; С і ц ь к а З. Грушаўка // Дыялог. 1998. № 2; W e g n e r L. Tadeusz Rejtan, na sejmie warszawskim z roku 1773. Poznań, 1873; K o n c z y ń s k a W. Rejtan, Korsak i Bohuszewicz na sejmie 1773 r. Wilno, 1935; M i c h a l s k i J. Rejtan i dylematy polaków w dobie pierwszego rozbioru // Kwartalnik Historyczny. 1986. № 4.

**рэйтаршчына**, падатак у прыватнаўласніцкіх маёнтках ВКЛ у 17—18 ст., які ішоў на ўтрыманне войска феадалаў. У сярэдзіне 18 ст. ў радзівілаўскіх маёнтках Р. складала 6 злотых у год з цяглай сял. валокі і 3 злотых з прыёмнай валокі.

**«Рэляцыі папскіх нунцыяў і іншых асоб аб Польшчы з 1548 да 1690 г.»** («Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce od roku 1548 do 1690»), зборнік дакументаў, якія асвятляюць узаемадачыненні



папскай курыі з Польшчай і Рэччу Паспалітай у сярэдзіне 16—канца 17 ст. Выдадзены Польскай б-кай у Парыжы (т. 1—2, Берлін; Познань, 1864). Выданне падрыхтаваў Э.Рыкачэўскі паводле копій дакументаў са збораў Я.*Альбертрандзі*, А.С.*Нарушэвіча*, Чартарыйскіх. Большасць дакументаў змешчана ў перакладзе з італьянскай на польскую мову, астатнія на лац. мове. Асноўныя з іх — інструкцыі і рэляцыі папскіх нунцыяў і легатаў у Рэчы Паспалітай; змешчана таксама вял. колькасць лістоў з перапіскі духоўных асоб Рыма са службовымі асобамі Рэчы Паспалітай, інш. дакументы. Матэрыялы зборніка асвятляюць унутраную і знешнюю палітыку Рэчы Паспалітай, барацьбу магнацкіх груповак за ўладу, выбары каралёў, дачыненні Рэчы Паспалітай з папскай курыяй, італьянскімі дзяржавамі, Свяшчэннай Рымскай імперыяй, укр. казакамі, Расіяй, заключэнне уніі паміж правасл. і каталіцкай цэрквамі Рэчы Паспалітай, палітыку уніяцкай царквы. Сярод змешчаных дакументаў дыярыуш А.*Пасевіна* пра заключэнне Ям-Запольскага перамір'я 1582 паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, Гадзяцкі дагавор 1582 з Украінай. У рэляцыях нунцыяў шмат звестак пра прыродныя ўмовы Беларусі, яе насельніцтва, гарады, паліт. становішча ў ВКЛ, характарыстыкі дзярж. дзеячаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Рэнесанс**, гл. *Адраджэнне*.

**рэнта** (ад ням. Rente), даход, не звязаны з непасрэднай прадпрымальніцкай дзейнасцю, які рэгулярна атрымлівае уласнік з зямлі, маёмасці ці капіталу. Зямельная Р. пры феадалізме — частка прыбавачнага прадукту, які ствараўся непасрэдным вытворцам у сельскай гаспадарцы і прысвойваўся ўласнікам зямлі як плата за карыстанне ёю. У ВКЛ у 16—18 ст. былі пашыраны адработачная, прадуктовая і грашовая зямельная Р. Да адработачнай адносіліся *паншчына, талокі, згоны, падводная павіннасць* і інш., да прадуктовай — збожжа, мёд, сена, прадукты жывёлагадоўлі і інш., да грашовай — *чынш, куніца, запіснoe* і інш. плацяжы. Напр., сяляне в. Давойна маёнтка Іўе, якім валодалі Радзівілы, у 1561 плацілі пану з валокі па 40 грошаў чыншу, адпрацоўвалі 2 дні ў тыдзень паншчыны, 4 талакі летам, аддавалі бочку аўса, воз сена, 2 курыцы, гусь. Падданыя маёнтка Цяпіна Полацкага ваяв. у 1591 плацілі ад 40 да 120 грошаў з валокі, адпрацоўвалі 16 талок на год, давалі адну падводу і зайца. Прыгонныя Ашмянскага старасотва ў 1592 павінны былі адслужыць з валокі 3 дні паншчыны ў тыдзень, даваць падводы па запатрабаванні адміністрацыі, сплачваць чынш 120 грошаў, а таксама даніну: бочку жыта, гусь, 2 курыцы, 20 яек, палову сабранага мёду.

***Павел Лойка.***

**рэфармацыйнае кнігадрукаванне**, друкаванне кніг пратэстантамі, прыхільнікамі *Рэфармацыі* ў 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. Рэфармацыйныя кнігі друкаваліся ў *берасцейскіх друкарнях, Кейданскай друкарні, Лоскай друкарні, Любчанскай друкарні, Нясвіжскай друкарні*. Яны ствараліся пры падтрымцы магнатаў і шляхты. Іх кіраўнікамі пераважна былі выхадцы з Польшчы, а памочнікамі — мясц. жыхары. У ліку першых у 1553 заснавана рэфармацыйная друкарня ў Берасці, якая была і першай друкарняй на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Амаль уся прадукцыя Р.к. (за выключэннем кірылічных выданняў Нясвіжскай друкарні і Евангелля В.*Цяпінскага*) выходзіла на польскай, у меншай ступені на лац. мовах. Найб. значнымі былі выданні перакладаў і рэдакцый Бібліі ці яе асобных кніг (*Берасцейская Біблія* 1563, Нясвіжская Біблія 1572, Новы Запавет 1574, выдадзены ў Лоску, і інш.). Рознабаковыя праблемы царк.-рэліг. дагматыкі, адносіны рэфармацыйнага руху да дзярж. і духоўнай улады асвятляліся ў рэліг.-багаслоўскіх і палемічных творах. Р.к. вылучалася высокай удзельнай вагой свецкіх арыгінальных і перакладных выданняў: выдаваліся гіст. творы, павучальныя трактаты, пераклады антычных аўтараў, дзеячаў сярэдневяковай культуры і эпохі Адраджэння, юрыдычная, вучэбная і педагагічная л-ра, паэтычныя зборнікі, панегірыкі. Асаблівай разнастайнасцю свецкіх твораў вызначалася прадукцыя Любчанскай друкарні. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. рэфармацыйныя выданні складалі каля 30% з 1,5 тыс. кніг, надрукаваных у ВКЛ; усяго рэфармацыйныя друкарні выдалі больш за 170 найменняў кніг (прыкладна 12%). Р.к. садзейнічала пашырэнню жанравай тэматыкі кніг, працэсу далучэння грамадства да зах.-еўрапейскай культуры. Тэхнічнае абсталяванне, мастацкае афармленне і разнастайнасць Р.к. ВКЛ адпавядалі еўрапейскаму ўзроўню. У Нац. б-цы Беларусі захоўваюцца некалькі выданняў Берасцейскай друкарні, у Цэнтр. б-цы НАН Беларусі — экзэмпляр Берасцейскай Бібліі 1563.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959; Topolska M.B. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984; Іванова Л. З гісторыі рэфармацыйнага кнігадрукавання ў Беларусі // Беларуска=Albaruthenica. Мн., 1998. Кн. 9.

***Людміла Іванова.***

**Рэфармацыя** (лац. reformatio пераўтварэнне, перапрацоўка, абнаўленне), рэлігійны і грамадска-палітычны рух у Еўропе у 16—1-й пал. 17 ст. (часам дакладна датуецца 1517—1648), накіраваны супраць панавання рымска-каталіцкай царквы і некаторых феадальных інстытутаў, вынікам чаго стала з'яўленне новай хрысціянскай канфесіі — пратэстантызму, прадстаўленай мноствам царкоўных арганізацый, сектаў і плыняў. Ідэйнымі крыніцамі Р. сталі гуманізм, рэфармісцкі рух у царкве і ерасі. З 15 ст. ў Зах. Еўропе узмацнілася крытыка злоўжыванняў, карупцыі, амаралізму і фінансавага прыгнёту рымска-каталіцкай царквы, асабліва папства. Р. пачалася ў Германіі, дзе 31.10.1517 Марцін Лютэр, манах-аўгусцінец і выкладчык ун-та ў Вітэнберге (Саксонія), выступіў з крытыкай заганаў афіцыйнай царквы. Ён адхіліў каталіцкія дагматыку і абраднасць і выклаў уласнае, больш набліжанае, на яго думку, да Бібліі вучэнне, што прывяло да поўнага разрыву з Рымам. Яго выступленні набылі вял. розгалас па ўсёй Германіі, дзе пачаўся рух за абнаўленне царквы і секулярызацыю яе маёмасці, падтрыманы многімі ўладарамі. Ідэі Лютэра па меры распаўсюджвання ў Еўропе атрымалі далейшае развіццё ў інш. рэфарматараў, што прывяло ў 1520—50-х г. да з'яўлення розных пратэстанцкіх плыняў: анабаптызму, англіканства, антытрынітарызму (гл. *Антытрынітарыі*), кальвінізму, лютэранства, цвінгліянства.



Р. ў ВКЛ спачатку пашыралася слаба з-за малой прыцягальнасці лютэранства (евангелічнай веры) для шляхты і негатыўнага стаўлення да ідэй Р. караля Жыгімонта I Старога, які ў 1520—30-х г. абмяжоўваў навучанне моладзі ў пратэстанцкіх ун-тах, увоз пратэстанскай літ-ры. У 1-й пал. 16 ст. ў ВКЛ лютэранства пашыралася на мяжы з пратэстанцкай Усх. Прусіяй, а таксама сярод нямецкіх і галандскіх каланістаў, пераважна ў гарадах (напр., у 1535 кн. Ю.Алелькавіч дазволіў будаваць *Слуцкі лютэранскі збор*).

Новы імпульс Р. ў ВКЛ атрымала ў сярэдзіне 16 ст., калі кальвінізм (гельвецкая вера, рэфармацтва) пад польскім уплывам імкліва пашыралася сярод магнатаў і шляхты. Гэта было абумоўлена як прывабнасцю для шляхты кальвінізму, які не дапускаў дзярж. кантролю над царквой, так і палітыкай рэлігійнай талерантнасці ў краіне. Кароль Жыгімонт II Аўгуст, трапіўшы з пач. 1540-х г. пад уплыў Радзівілаў, з цікавасцю ставіўся да пратэстанцкіх ідэй. Кароль Стафан Баторый, які паходзіў з Трансільваніі, дзе ён ужо меў вопыт рэлігійнага плюралізму, нягледзячы на свае сімпатыі да езуітаў, імкнуўся захаваць мірнае суіснаванне розных рэлігій. Аднак рашаючым фактарам пашырэння Р. ў ВКЛ стаў пераход у пач. 1550-х г. уплывовых магнатаў Радзівілаў у лютэранства, з 1553 у кальвінізм. У хуткім часе новую веру прыняло шмат магнацкіх родаў: Агінскія, Білевічы, Валовічы, Вішнявецкія, Войны, Кішкі, Нарушэвічы, Патоцкія, Пацы, Пронскія, Сапегі і інш., уплывовыя магнаты: Г.Хадкевіч, Я.Глябовіч, Г.Гарнастай, М.Дарагастайскі, Ю.Зяновіч, М.Шэмет, М.Тальваш, В.Тышкевіч і інш. З іх брала прыклад сярэдняя і дробная шляхта. Магнаты фінансавалі пратэстанцкія друкарні ў Берасці, Вільні, Любчы, Нясвіжы.

Амаль разам з кальвінізмам у ВКЛ распаўсюджваліся антытрынітарныя (пад уплывам італьянскіх эмігрантаў-антытрынітарыяў) і анабаптысцкія погляды, якія ў пач. 1560-х г. успрымалі і развівалі многія пратэстанцкія святары і тэолагі ВКЛ. У 1562—63 гэта прывяло да расколу рэфармацыйнага руху ВКЛ на кальвіністаў і антытрынітарыяў (гл. *Арыянства, Сацыніянства*), паміж якімі разгарэліся гарачыя тэалагічныя дыскусіі. Антытрынітарыям сімпатызаваў М.*Радзівіл* Чорны, некаторыя магнаты ВКЛ (Я.Кішка і інш.) перайшлі ў іх лагер і фінансавалі іх друкарні (у Лоску, Венграве) і адукацыйныя ўстановы. Шматлікіх прыхільнікаў мелі антытрынітарыі сярод шляхты на Валыні (Чаплічы, Гойскія, Сянюты і інш.) і Кіеўшчыне (Нямірычы і інш.).

Р. ў ВКЛ распаўсюджвалася на польскай мове. На ёй выдавалася асн. маса рэлігійнай л-ры; тэолагам і святарам адрасаваліся выданні на лацінскай мове. Толькі некаторыя пратэстанты ў 2-й пал. 16 ст. спрабавалі перакладаць рэлігійную л-ру на старабел. мову (С.*Будны*, В.*Цяпінскі*, В.Негалеўскі і інш.).

У ВКЛ існавала глеба для пашырэння Р. (шляхецкая дэмакратыя, слабая цэнтралізацыя ўлады, суіснаванне розных рэлігій), аднак не было ўмоў для яе перамогі. Рацыяналістычная дактрына Р., яе адмова ад эфектнага культу не прываблівалі нар. масы. Р. не прынесла ім эканам. ці сац. пераваг. Царква ў ВКЛ не дасягнула інтэлектуальнай і структурнай спеласці, як у Зах. Еўропе, і не зазнала такой дэфармацыі і дэградацыі. Таму толькі невял. частка ксяндзоў (рэдка папоў і дыяканаў) прыняла Р. Рэфармацыйны рух ВКЛ узначальвала нямала духоўных-эмігрантаў з Польшчы. Р. ў ВКЛ насіла саслоўны характар і распаўсюджвалася ў асноўным сярод шляхты і магнатаў. Р. спрыяла ўмацаванню пазіцый магнатаў, абмяжоўваючы ўплыў каталіцкага духавенства і каралеўскай улады; для сярэдняй і дробнай шляхты Р. служыла сродкам барацьбы з магнатэрыяй і дзярж. бюракратыяй за вольнасці і прывілеі. Дзейнасць пратэстанцкіх цэркваў, выбарнасць іх пасад была блізкая да працэдур шляхецкай дэмакратыі, а канфесійная палеміка часта насіла паліт. падтэкст. *Варшаўская канфедэрацыя 1573* гарантавала асабістую рэлігійную свабоду кожнаму шляхціцу Рэчы Паспалітай, што было ўнесена і ў Статут ВКЛ 1588, аднак гэта не азначала раўнапраўя канфесій і свабоды пратэстанцкага вызнання ў ВКЛ. У 2-й пал. 16 ст. ў ВКЛ існавала каля 180—200 кальвінскіх, 10 лютэранскіх і каля 20 антытрынітарных збораў (каталіцкіх парафій засталося каля 200). Пратэстанцкія суполкі знаходзіліся ў асноўным у Літве, на Падляшшы і Берасцейшчыне, у паўн.-зах. і цэнтр. Беларусі.

З 1570-х г. езуіты актыўна супрацьдзейнічалі Р. ў ВКЛ. Але толькі пры каралю Жыгімонце III Вазе, які вызначаўся фанатычным каталіцтвам, рабіліся спробы дзейсна спыніць Р. (абмежаванне пратэстантаў у правах, забарона на выкананне культу і пабудову новых культавых будынкаў), аднак ва ўладаннях магнатаў яны ігнараваліся. У 1590-х г. спыніўся масавы пераход шляхты ў новую веру, многія пратэстанты ці іх дзеці вярталіся ў каталіцтва. У пач. 17 ст. колькасць пратэстантаў рэзка знізілася, іх зборы пакрысе выдаляліся з каралеўскіх гарадоў, каталіцкім духавенствам інспіраваліся пагромы пры патуранні свецкай улады. Пры каралю Уладзіславе IV Вазе, зацікаўленым у падтрымцы магнатаў і шляхты ВКЛ, абмежаванні пратэстантаў насілі больш фармальны характар. Толькі пасля казацкіх войнаў і *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* дзярж. палітыка ў адносінах да іншаверцаў стала неталерантнай. З кан. 1650-х г. пачалі з'яўляцца абмежаванні на іх рэлігійную практыку, у 1658—62 з краіны выдаляюцца антытрынітарыі, у 1668 забараняецца пераход з каталіцтва ў інш. веру. У 18 ст. ўціск пратэстантаў узмацніўся, што прывяло да канчатковага заняпаду іх канфесій у ВКЛ.

Р. істотна паўплывала на рэлігійнае, часткова паліт. жыццё ВКЛ, выклікала змены ў праве і этыцы, іх пэўную гуманізацыю. Асабліва вялікім быў уплыў Р. на развіццё нац. свядомасці, культуры, асветы. З Р. звязана пашырэнне кнігадрукавання на нар. мовах, распаўсюджанне ў грамадстве навуковых ведаў, развіццё л-ры (асабліва публіцыстыкі) і мастацтва (у т.л. новай музыкальнай культуры). Тэалагічная і філалагічная думка Р. ў ВКЛ адыграла вял. ролю ў духоўным жыцці краіны і мела еўрапейскую каштоўнасць.

*Літ.*: Łukaszewicz J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T. 1—2. Poznań, 1842—43; Merczyng H. Zbory i senatorowie protestanccy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1904; Плисс Б. Исторический очерк возникновения и распространения реформации в Литве и Западной Руси // Христианское чтение.

1914. № 2; Halecki O. Zgoda sandomierska 1570 r. Warszawa; Kraków, 1915; Hartleb K. Zagadnienie reformacji na ziemiach litewskich: Problemy-postulaty. Lwów, 1935; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. (Вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Яго ж. Protestanci i kontrreformacja: Z dziejów tolerancji w Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Wrocław, 1978; Лифшиц Г.М. Реформационное движение в Чехии и Германии. Мн., 1978; Williams G.H. Protestants in the Ukraine during the Period of the Polish-Lithuanian Commonwealth // Harvard Ukrainian Studies. 1978. № 1—2; Wisner H. Rozróżnieni w wierze: Szkice z dziejów Rzeczypospolitej schyłku XVI i połowy XVII wieku. Warszawa, 1982; Maciuszko J.T. Konfederacja warszawska 1573 roku. Warszawa 1984; Дмитриев М.В. Православие и Реформация: Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI века. М., 1990; Jarmiński L. Bez użycia siły: Działalność polityczna protestantów w Rzeczypospolitej u schyłku XVI wieku. Warszawa, 1992.

*Ігар Клімаў.*

**рэферэндар** (ад лац. referendarius службовая асоба), пасада ў Рэчы Паспалітай. У Польшчы пасады свецкага і духоўнага Р. ўведзены ў 1507, у ВКЛ вядомы адпаведна з 1539 і 1575. Выслухоўвалі скаргі прыватных асоб і паведамлялі іх змест канцлеру (а той даводзіў іх да караля), паведамлялі рашэнні манарха на пададзеныя просьбы і скаргі. Знаходзіліся стала пры каралю, давалі яму парады. У 1633 духоўны Р. ВКЛ атрымаў права ўдзельнічаць у пасяджэннях Сената з правам дарадчага голасу. У 1635 ураўнаваны ў правах з каронным духоўным Р., засядаў у каралеўскім рэляцыйным судзе, дзе разглядаліся інфлянцкія і курляндскія справы. У гэты час у ВКЛ заснаваны рэферэндарскі суд (ажыццяўляўся духоўным Р. аднаасобна) як вышэйшы даменіяльны суд караля. Разглядаў скаргі сялян каралеўскіх уладанняў (каралеўшчын) ВКЛ на старастаў і дзяржаўцаў. Вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй для рэферэндарскага суда быў задворны асэсарскі (каралеўскі) суд. У 1540—70-я г. пасада Р. існавала і ў Падляшскім ваяв.

*Валерый Пазднякоў.*

**Рэч Паспалітая** (польск. Rzecz Pospolita, Rzeczpospolita рэспубліка, агульная дзяржава, агульная справа), 1) традыцыйная назва польскай феад. дзяржавы з канца 15 ст. Р.П. з'яўляецца формай саслоўнай манархіі на чале з выбраным пажыццёва каралём, уладу з якім падзяляла шляхта. Упершыню тэрмін «Р.П.» з'явіўся ў пач. 13 ст. ў хроніцы Вінцэнта Кадлубака. Часам Р.П. называлася ў 15—16 ст. і ВКЛ, а ў Статутах ВКЛ гэтым тэрмінам пазначаны паняцці «грамадства», «дзяржава». У 1-м раздзеле Статута ВКЛ 1588 тэрмін «Р.П.» азначае «дзярж. справа», «дзярж. служба». У 16 ст. тэрмін шырока ўжываўся для абазначэння дзяржавы.

2) Афіцыйная назва феад. федэратыўнай дзяржавы, у якую аб'ядналіся ў выніку *Люблінскай уніі 1569* Польшча (Карона) і ВКЛ. Р.П. існавала ў 1569—1795 і была ліквідавана ў выніку 3 падзелаў яе тэрыторыі. У склад Кароны ўваходзілі польскія і ўкр. ваяводствы, у ВКЛ — бел. і літ. землі. У Р.П. ўваходзіла як сумеснае ўладанне (кандамініум) Польшчы і ВКЛ *Інфлянцкае ваяводства*, як васальная дзяржава — *Курляндскае і Земгальскае герцагства*, як непасрэднае ўладанне Р.П. з пач. 17 ст. — *Пільтэнская акруга*. У 1525—1657 васалам Польшчы было *Прускае герцагства* са сталіцай у Караляўцы (Кёнігсбергу), аднак брандэнбургскім курфюрстам, якія з 1618 панавалі ў Прусіі, удалося дамагчыся яго незалежнасці. Кароткі час у 1658—59 усх. ўкраінскія ваяводствы ў выніку *Гадзяцкага дагавора 1658* уваходзілі ў склад Р.П. як 3-я дзяржава — Вялікае княства Рускае са сталіцай у Кіеве на чале з гетманам казакоў. Аднак унутраная барацьба на Украіне прывяла да ліквідацыі гэтай дзяржавы, і ўрэшце Кіеўскае і Брацлаўскае ваяв. з яе складу засталіся ў Польшчы, а Чарнігаўскае ваяв. далучана да Расіі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайны 1655—70* шляхецкая групоўка ў Жамойці і Літве на чале з вял. гетманам ВКЛ Я.Радзівілам падпісала *Кейданскую унію 1655*, якая абвясціла пра дэзінтэграцыю Р.П. і аб'яднанне ВКЛ са Швецыяй на канфедэратыўнай аснове, аднак большасць шляхты Беларусі і Літвы не падтрымала гэтай ініцыятывы, і Р.П. захавалася. У канцы 17—пач. 18 ст. наймагутнейшыя на той час магнаты Сапегі намагаліся аддзяліць ВКЛ ад Польшчы і стварыць для сябе самастойную манархію. У той жа час праціўнікі Сапегаў на чале з Р.А.Агінскім у 1700—02 таксама спрабавалі вылучыць ВКЛ са складу Р.П. і ўтварыць тут спадчынную манархію для караля Аўгуста II і яго нашчадкаў. *Паўночная вайна 1700—21* перакрэсліла гэтыя планы, больш спроб дэзінтэграцыі Р.П. не было.

Р.П. лічылася агульнай дзяржавай «абодвух народаў», г.зн. польскай і бел.-літ. шляхты. Кароль польскі (ён жа і вял. князь літоўскі, рускі і жамойцкі) меў абмежаваныя паўнамоцтвы. Заканадаўчую і часткова судовую (па маёмасных адносінах) уладу меў агульны для ўсёй дзяржавы магнацка-шляхецкі *сойм*, які складаўся з 2 палат.: *Сената* (з магнатаў, прадстаўнікоў цэнтр. і правінцыяльнай адміністрацыі, вярхоў каталіцкай царквы) і *Пасольскай Ізбы*, у якую выбіраліся шляхціцы-дэпутаты (паслы) па 2 ад кожнага павета. На тэр. Кароны паветаў было амаль удвая больш, чым у ВКЛ, таму прадстаўнікі Кароны складалі каля 2/3 сойма. Аднак сойм прымаў асобна законы для Польшчы і для ВКЛ. З сярэдзіны 17 ст. ў сойме было ўведзена правіла аднагалосся пры прыняцці рашэнняў (*ліберум вета*). З 1673 кожны трэці звычайны сойм абавязкова збіраўся на тэр. ВКЛ у Гародні. Р.П. вяла агульную для Кароны і ВКЛ знешнюю палітыку. Аднак абедзве дзяржавы захоўвалі асобную дзярж. адміністрацыю (з адпаведнымі кіруючымі пасадамі), асобныя войскі са сваім камандаваннем, свае фінансавыя сістэмы, скарб, права чаканкі аднолькавай манеты, самастойныя судовыя і мытныя (да 1766) сістэмы, асобнае заканадаўства. Кожная з дзяржаў мела сваю дзярж. мову: Польшча — лацінскую (з канца 16 ст. фактычна польскую), ВКЛ — беларускую (з 1696 польскую, але афіцыйныя акты на бел. мове захоўвалі сваю моц). Згодна са Статутамі ВКЛ, асабліва са Статутам 1588, у ВКЛ забаранялася польскай шляхце займаць дзярж. пасады любога ўзроўню, а таксама купляць, атрымліваць у спадчыну і ў падарунак нерухомую маёмасць. З сярэдзіны 17 ст. роля соймаў зменшылася, у паліт. жыцці Р.П. усё большую ролю пачалі адыгрываць

магнацкія групоўкі і шляхецкія саюзы (*канфедэрацыі*). У кіраванні ўнутранымі справамі Р.П. вырасла значэнне павятовых шляхецкіх *соймікаў*, якім было перададзена права збіраць некаторыя падаткі і распараджацца імі. Ва ўмовах частага зрыву соймаў, асабліва ў 18 ст., соймікі прысвойвалі сабе функцыі заканадаўчай і судовай улады, не лічыліся з пастановамі сойма. Спробы цэнтралізацыі ўлады ў Р.П. у 2-й пал. 18 ст. не ўдаліся. *Канстытуцыя 3 мая 1791* з праграмай шырокіх рэформаў дзярж. ладу была скасавана пасля перамогі Таргавіцкай канфедэрацыі ў 1792. Тэрыторыя Р.П. у 1772, 1793 і 1795 была падзелена паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй (гл. *Першы падзел Рэчы Паспалітай, Другі падзел Рэчы Паспалітай, Трэці падзел Рэчы Паспалітай*).

*Літ.*: Кутшеба С. Очерк истории общественно-государственного строя Польши: Пер. с пол. СПб., 1907; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Бардах Ю., Леснодорский Б., Пиетрчак М. История государства и права Польши: Пер. с пол. М., 1980; Юхо Я. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**«рэчы крывавыя»**, найбольш небяспечныя крымінальныя злачынствы, за якія паводле законаў ВКЛ магло быць вызначана пакаранне смерцю. Статут ВКЛ 1588 не дае вычарпальны пералік «Р.к.» і не растлумачвае іх, аднак заўсёды пасля тэрміна «Р.к.» дадае «за што горлом караютъ». З гэтага вынікае, што «Р.к.» — цяжкія злачынствы, за якія належала пакаранне смерцю ў любой форме. Сярод такіх злачынстваў Статут ВКЛ 1588 называе забойства, наезд на шляхецкі дом, спалучаны з забойствам або нанясеннем ран, згвалтаванне, разбой, падпал і «иншие речи крвавые, то есть за што горлом караютъ». Разгляд спраў аб «Р.к.» адносіўся да юрысдыкцыі *гродскага суда* («на суд гродский вынятые»). Абвяшчэнні пра такія злачынствы і занясенне іх у судовыя кнігі рабіліся паводле жадання пацярпелага боку ў гродскім судзе павета, дзе адбылося злачынства, або ў судзе суседняга павета. Без згоды пацярпелага суд да разгляду не меў права перадаваць злачынца на парукі, яго павінны былі трымаць пад вартай.

*Таіса Доўнар.*

**«рэчы меншыя»**, крымінальныя злачынствы, за якія паводле законаў ВКЛ не прадугледжвалася смяротнае пакаранне (у адрозненне ад *«рэчаў крывавых»)*. Дакладнага пераліку такой катэгорыі злачынстваў у Статуце ВКЛ 1588 няма, аднак у асобных артыкулах ёсць спасылкі, за што «горлом» і «розлитьем крви... не караютъ». У некаторых выпадках давалася тлумачэнне: «в речах меньших, не кривавых, где о горло не идеть», «А то се маеть розумети о речах менших, а не крвавых». Гэта дае падставы меркаваць, што «Р.м.» былі злачынствы менш цяжкія, за якія не каралі смерцю, не выганялі за межы дзяржавы. Суд меў права без згоды пацярпелага аддаваць абвінавачанага ў «Р.м.» на парукі да судовага разбору.

*Таіса Доўнар.*

**Рэчыца** (цяпер горад, цэнтр Рэчыцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Рэчыцкага павета*, на правым беразе Дняпра. Упершыню ўпамінаецца пад 1213, належала Чарнігаўскаму княству. З 14 ст. ў ВКЛ. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) упамінаецца як «кіеўскі» горад. З 15 ст. цэнтр *Рэчыцкай воласці*. У 1505, відаць, спалена татарамі. 2.10.1511 атрымала права на самакіраванне (пацвярджалася ў 1561, 1596). Карысталася гербам з выявай харугвы з «Пагоняй». У ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 Р. стала цэнтрам павета. Тут існавалі магутныя *рэчыцкія гарадскія ўмацаванні*. У 1596 захоплена казакамі С.Налівайкі. У пач. 17 ст. ў Р. да



**Рэчыца**. Гравюра паводле малюнка К.Эйгерда. 1649.

2 тыс. жыхароў. У 1634 менскі ваявода А.Слушка заснаваў у Р. кляштар дамініканцаў. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* горад некалькі разоў займалі казацка-сялянскія атрады. У 1648 горадам авалодаў 3-тысячны атрад, якому Б.Хмяльніцкі забараніў пакідаць Р. як важны стратэгічны пункт, нягледзячы на недахоп узбраення. У 1649 Р. адбіў Я.*Радзівіл*, аднак у 1650 горад апынуўся ў руках палкоўніка М.*Нябабы*, які ў сваю чаргу не змог утрымаць Р. і быў забіты пры адступленні. Пасля гэтых падзей Радзівіл значна ўмацаваў Р. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Р. ў 1654 захоплена казакамі І.Залатарэнкі. Пасля вайны горад страціў стратэгічнае значэнне, яго ўмацаванні пачалі пакрыху разбурацца. Паводле прывілея Аўгуста III ад 15.7.1734 Р. і Рэчыцкае староства трапілі ва ўладанне князёў Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Умецкий Б.И. Речица: Краткий ист.-экон. очерк. Мн., 1963; Трэція міжнародныя Доўнараўскія чытанні: Рэчыца, 14—15 верасня 2001 г. Мн., 2002; Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні: Рэчыца, 18—19 верасня 2003 г. Ч. 2. Рэчыца ў часе і прасторы: 790 год заснавання горада. Гомель, 2004.

**Рэчыцкая воласць**, Рэчыцкае староства, буйны дзяржаўны маёнтак у ВКЛ у 15—18 ст. Цэнтр — г. *Рэчыца*. Першапачаткова Р.в. уваходзіла ў склад Чарнігаўскага княства. У канцы 14 ст. вял. кн. Вітаўт падараваў Віленскаму каталіцкаму біскупству маёнтак Стрэшын, а віленскаму намесніку Манівіду — маёнтак Горваль, вылучыўшы іх, відаць, са складу Р.в. У 1420-я — пач. 1430-х г. Р.в. разам з Чарнігавам належала кн. Свідрыгайлу, у пач. 1440-х г. была пад кантролем вял. кн. Казіміра, які аддаў з яе складу маёнтак Дамыслін кн. Б.Глінскаму. У 1418 на пасаду рэчыцкага намесніка прызначаны баярын Квач. У 1499 уладальнік сумежнай Гомельскай вол. кн. С.І.Мажайскі перайшоў на бок Масквы, часова захапіўшы і сёлы Р.в. за Дняпром: Борхаў, Гіраў, Чобатавічы і інш. На пасадзе рэчыцкіх намеснікаў вядомыя: М.Халецкі (1511), С.Полазавіч (1522—27), кн. А.В.Вішнявецкі (1532—45), А.Гарнастай (1555). Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 цэнтр воласці г. Рэчыца стаў павятовым цэнтрам, а сама воласць цалкам увайшла ў склад *Рэчыцкага павета*. З сярэдзіны 16 ст. звычайна называлася стараствам. У 1569 уключана ў сталовыя маёнткі, даход з якіх ішоў на забеспячэнне непасрэдна вял. князя і яго двара. На пасадзе рэчыцкіх старастаў вядомыя: кн. Р.Ф.Сангушка (з 1567), А.Валовіч (1576), кн. Я.І.Жыжэмскі (да 1597), яго сын П.Жыжэмскі (да 1618), Е.А.Слушка (з 1626?), яго сыны Е.Слушка (да 1639) і Б.Слушка, сыны апошняга Ю. і Д. Слушкі (да 1713), паны Кланоўскі і Паноша, К.Халецкі (да 1737), А.Радзівіл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***



Аўтар В.Л.Насевіч

**Рэчыцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Створаны ў выніку



Аўтар карты М.Ф.Спірыдонаў

адм.-тэр. рэформы 1565—66 у складзе *Менскага ваяводства*. У Р.п. увайшлі тэр. Бабруйскай, Гомельскай, Прапойскай, Рагачоўскай, Рэчыцкай, Чачэрскай дзярж. валасцей (старостваў) і прылеглыя прыватнаўласніцкія маёнткі, найб. значнымі з якіх былі Горваль (на той момант уласнасць князёў *Сангушкаў*), Добасна (уладанне *Хадкевічаў*), Стрэшын (уладанне Віленскага біскупства). Р.п. меў павятовую харугву чырвонага колеру з выявай «Пагоні». Плошча Р.п. каля 30 тыс. км². У 16—17 ст. быў адным з найменш населеных паветаў ВКЛ. У час казацкіх рэйдаў 1648 значна спустошаны. На 1650 налічваў 4,3 тыс. дымоў, каля 30 тыс. жыхароў. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* прынесла яшчэ большыя спустошэнні. На 1667 засталося 1,8 тыс. дымоў, менш за 12 тыс. жыхароў. Да 2-й пал. 18 ст. колькасць насельніцтва значна ўзрасла і дасягнула прыкладна 200 тыс. чалавек. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) усх. частка Р.п. (да Дняпра і ніжняй Друці) адышла да Рас. імперыі, дзе была ўключана ў Магілёўскую губерню. У складзе ВКЛ засталася каля 1/3 тэр. Р.п. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) скасаваны, яго тэр. падзелена паміж Мінскай, Магілёўскай і Чарнігаўскай губернямі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**рэчыцкія гарадскія ўмацаванні**, комплекс драўляна-земляных абарончых збудаванняў 12—18 ст. у г. *Рэчыца*. Умацаваны цэнтр Рэчыцы займаў звычайнае першабытнаабшчыннае гарадзішча (плошча 0,25 га), якому надалі авальную форму, абнеслі валамі і аддзялілі ад берагавога плато дугападобным ровам. Даследчыкі мяркуюць, што ўжо ў 13 ст. пасад, які паўкальцом абкружаў умацаваны цэнтр, меў уласную лінію ўмацаванняў. З апошняй чвэрці 15 ст. і да 1569 тэрыторыя ва-



**Рэчыцкія гарадскія ўмацаванні**. Фрагмент гравюры паводле малюнка К.Эйгерда. 1649.

кол Рэчыцы была зонай грабежніцкіх нападаў крымскіх татараў. Пасля чарговага набегу ў 1529 дзяржаўца рэчыцкі Сямён Полазавіч прасіў у вял. кн. Жыгімонта I Старога падтрымкі для горада. У грамаце ад 30.5.1529 вял. князь адзначыў заслугі Полазавіча і загадаў усе прыбыткі з рэчыцкай мытні і корчмаў накіроўваць на рамонт і будаўніцтва замка. У жн. 1561 ў час надання Рэчыцы новых вольнасцей вял. кн. Жыгімонт II Аўгуст вызваліў яе мяшчан «от работ замков украиных», пакінуўшы за імі «замок свой Речицкий и теж острог около места перекопы по давному поспол з волощаны робити». У наданні канкрэтна гаворыцца пра ўмацаванні «места», упамінаецца абавязак мяшчан даваць па 1 чал. «сторожей до брам местских». Брамы гэтыя не названы, аднак паводле інш. гіст. крыніц гэта Чарнігаўская і Менская брамы. У выніку ваенных падзей 16 ст., асабліва *Інфлянцкай вайны 1558—82*, Р.г.ў., відаць, былі знішчаны. У 1593 рэчыцкі староста М.Буйвід мусіў закласці 3 свае сялы з фальваркамі за 1 тыс. коп грошаў і пусціць гэту суму «на поправу замку его королевской милости Речицы, который моцно опал». Будаўнічыя работы, відаць, былі праведзены паспяхова, таму што ў пач. 17 ст. гісторык А.Гваньіні адзначыў наяўнасць у Рэчыцы «замка і места». Паводле плана сярэдзіны 17 ст., горад у гэты час меў 3 лініі абароны. Першая лінія — умацаванні замка, якія складаліся з зямлянога кальцавога вала і 5 вежаў на ім (2 вежы размяшчаліся над Дняпром, 3 — з боку горада). Уезд у Рэчыцу ажыццяўляўся з паўд. боку праз разрыў у земляным вале. Да 2-й лініі абароны адносіліся ўмацаванні ўласна «места». Яны ўключалі дугападобны вал, які ўпіраўся канцамі ў бераг Дняпра. На вале стаялі 14 прамавугольных у плане драўляных вежаў з праслами сцен-гародняў. У лініі падкавападобнага форбурга стаяла прамавугольная 15-я вежа. 3-я лінія абароны складалася з комплексу бастыённай фартыфікацыі, які абкружаў Рэчыцу з Пд, З і Пн. Яна замыкалася ў прыбярэжнай частцы горада лініяй земляных умацаванняў. Мост, які звязваў Рэчыцу з левабярэжным Падняпроўем, адыгрываў важную ролю ў арганізацыі абароны горада, лёгка прымаўся ў выпадку ваеннай небяспекі. Пры ўездзе ў Рэчыцу, на самым беразе ракі, стаяла яшчэ адна вежа, якая кантралявала доступ у прырэчную частку горада. Страціўшы ў 18 ст. сваё стратэгічнае значэнне, Рэчыца ўжо не мела патрэбы ў моцных умацаваннях, і Р.г.ў. паступова разбурыліся.





**Сабескі** Ян (17.8.1629, Алескі замак—17.6.1696), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1674—96], гл. *Ян III*.

**Саборнае ўлажэнне 1649**, Улажэнне цара Аляксея Міхайлавіча, кодэкс законаў Расійскай дзяржавы, прыняты Земскім саборам 1648—49; спроба стварыць агульнадзярж. універсальны збор законаў і цэнтралізаваць судова-адм. апарат і 1-ы друкаваны збор рас. заканадаўства. Дзейнічаў да выдання ў 1830-х г. «Збору законаў Расійскай імперыі». Адлюстроўваў эвалюцыю сац. і паліт. ладу дзяржавы ад саслоўна-прадстаўнічай манархіі да абсалютызму. Складаўся з 967 артыкулаў, аб'яднаных у 25 раздзелаў. Даследчыкі падзяляюць іх на 5 груп па галінах права: раздзелы I—IX — дзярж. права; раздзелы X—XV — працэсуальнае права, статуты судовага ладу і судаводства; раздзелы XVI—XX — маёмаснае права; раздзелы XXI—XXII — крымінальнае права; раздзелы XXIII—XXV — асобныя аспекты права (пра стральцоў, казакоў, корчмы). Адсутнічае сямейнае права. С.ў. прадугледжвала сціранне межаў паміж 2 формамі феад. зямельнай уласнасці: вотчыннай і памеснай. Пасадскае насельніцтва, у т.л. свабодных раней ад цягла «белых» слабод, адасаблялася ў асобнае саслоўе і прымацоўвалася да пасада: яго нельга было пакінуць, увайсці ў яго можна было толькі пры ўмове ўступлення ў цяглую абшчыну. Увядзеннем бестэрміновага вышуку збеглых сялян С.ў. канчаткова замацавала прыгоннае права. Забаронена пашырэнне халопскага саслоўя за кошт пасадскага і сял. насельніцтва з мэтай не дапусціць змяншэння колькасці падаткаплацельшчыкаў. Гэтыя крокі былі накіраваны на канчатковае афармленне і кансалідацыю асн. саслоўяў дзяржавы з мэтай стабілізаваць грамадства.

Крыніцамі С.ў. былі *кормчыя кнігі*, судзебнікі, указныя кнігі прыказаў. Адной з асн. крыніц стаў *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*, на што неаднаразова ўказваецца ў С.ў. Відаць, пераклад Статута са старабел. мовы быў зроблены яшчэ ў 1645—48 для Улажэннай камісіі і знаходзіўся ў яе распараджэнні. Складальнікі С.ў. кіраваліся гэтым кодэксам у структуры (акрамя раздзелаў XI—XX, у якіх адлюстраваны характэрныя асаблівасці рас. грамадскага жыцця), у падборы казусаў і адносін, у пастаноўцы прававых пытанняў. Статут стаў непасрэднай крыніцай для вызначэння ў С.ў. паняцця паліт. злачынства. Вытрымкі са Статута прыводзяцца ў даслоўным перакладзе або ў даволі блізкім перакадзе, хоць нормы бел.-літ. права былі творча перапрацаваны ў адпаведнасці з прававымі асаблівасцямі Рас. дзяржавы.

*Публ.*: Соборное уложение 1649 г.: Текст, коммент. Л., 1987.

*Літ.*: Владимирский-Буданов М.Ф. Отношения между Литовским Статутом и Уложением царя Алексея Михайловича // Сб. гос. знаний. СПб., 1877. Т. 4; Тихомиров М.Н., Епифанов П.П. Соборное уложение 1649 г. М., 1961; Маньков А.Г. Уложение 1649 года — кодекс феодального права России. Л., 1980.

***Генадзь Прыбытка.***

**Сава** Пальмоўскі (каля 1740—1803), дзеяч праваслаўнай царквы. З сям'і правасл. слуцкага святара. Скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію, дзе ў 1760 выкладаў. З 1760 судовы пісар, з 1761 — кафедральны эклесіярх. У 1763 у сане іераманаха накіраваны па царк. справах у Маскву. З 1767 настаўнік і памочнік маладога кн. Дз.Далгарукага, паслушніка Кіева-Пячэрскай лаўры. Дамогся ад яго маці манахіні Нектарыі дапамогі ў адбудаве Дзесяцціннай царквы. Пасяліўся побач у Трохсвяціцельскім скіце, дзе пабудаваў цэрквы і келлі. У 1778 ігумен Буйніцкага манастыра пад Магілёвам, пазней — Касцянскага манастыра каля г. Почап Ноўгарад-Северскай епархіі. З 1789 ігумен Троіцкага манастыра ў Бельску. Удзельнічаў у *Пінскай кангрэгацыі 1791*, якая стварыла незалежную арганізацыю правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай. Пасля падаўлення паўстання 1794 жыў у Галіцыі, дзе, відаць, прыняў унію.

**Саверчанка** Іван Васілевіч (2.4. 1962, в. Маліноўка Касцюковіцкага р-на), беларускі літаратуразнавец, гісторык, філосаф, палітолаг. Д-р філалагічных навук (2001). Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага пед. ін-та (1983). З 1987 працуе ў Ін-це

л-ры НАН Беларусі (з 2001 вядучы навук. супрацоўнік). Даследуе гісторыю і тэорыю л-ры, гісторыю Беларусі, сучасныя праблемы ўлады і дзяржаўнасці, міжнар. адносіны.

*Тв.*: Старажытная паэзія Беларусі, XV—першая палова XVII ст. Мн., 1992; Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега. Мн., 1992; Астафей Валовіч: (гіст.-біягр. нарыс). Мн., 1992; Сымон Будны: Гуманіст. і рэфарматар. Мн., 1993; На сумежжы культур: Рэнесанс, Рэфармацыя і ранняе барока // Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей. Мн., 1993. Кн. 1; Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мн., 1994; Хрысціянскі катэхізіс у кніжна-пісьмовай культуры ўсходніх славян эпохі Адраджэння і барока: Атрыбуцыя, паэтыка, семіётыка. Мн., 1998; Aurea medio critas: Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998; Menschliche Dimension: intellektuelle und geistige Bereiche. = Чалавечае вымярэнне: інтэлектуальная і духоўная сферы. Minsk, 2004.

**Сагановіч** Генадзь Мікалаевіч (н. 13.1.1961, в. Турная Івацэвіцкага р-на), беларускі гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1989). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1984). У 1984—2005 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі (з 1992 старшы навук. супрацоўнік). Праводзіў раскопкі прыватнаўладальніцкіх замкаў (Гарадоцкі, Глускі, Койданаўскі, Лоскі і інш.), даследаваў кавальства Беларусі эпохі феадалізму. Вывучае ваенна-паліт. гісторыю ВКЛ, гіст. сувязі Беларусі з немцамі ў сярэдневякоўі. Складальнік і адзін з аўтараў зборніка «Імя тваё Белая Русь» (1991). Заснавальнік і рэдактар час. «Беларускі Гістарычны Агляд».

*Тв.*: Айчыну сваю баронячы: Канстанцін Астрожскі. Мн., 1992; Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994; Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995; Полацкая вайна, 1563—1579 гг. // Адраджэнне: Гіст. альманах. Мн., 1995. Вып. 1; Царкоўная вунія 1596 г. і пытанне нацыянальнай тоеснасці беларусаў у XVIII ст. // Наш радавод. Гродна, 1996. Кн. 7; Нямецкая каталіцкая місія і Полацк у XIII ст. // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996; Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1997. Вып. 2; У пошуках Сярэднявечча // Бел. гіст. агляд. 1997. Сш. 1—2; Полацк і нямецкая калонія на Дзвіне // Там жа. 1998. Сш. 1; Немцы ў Полацку часоў Францыска Скарыны // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1998. Кн. 9.

**Садкоўскі** Віктар, гл. *Віктар.*

**сажань**, мера даўжыні. На Русі вядомы з 11 ст., меў даўжыню 140—152 см (малы, просты, прамы С.). З 12 ст. пашыраным стаў вялікі (касы) С. памерам 170—248 см як адлегласць ад падэшвы левай нагі да канца ўзнятай уверх правай рукі. На практыцы часта вызначаўся як адлегласць паміж канцамі сярэдніх пальцаў разведзеных у бакі рук пад назвай махавы (мерны) С., звычайна адпавядаў 176 см. У ВКЛ, у асноўным пры гандлёвых аперацыях, выкарыстоўваўся малы С. і рыжскі махавы С. (188,125 см).

*Літ.*: Памятная книжка Минской губернии на 1900 г. Мн., 1899; 100 лет государственной службы мер и весов в СССР. М.; Л., 1945; Земзарис Я.К. Метрология Латвии в период феодализма (XIII—XVI вв.) // Проблемы источниковедения. М., 1955. [Вып.] 4; Гурштейн А.А. Анализ эволюции размеров русских саженей XI—XVII вв. // Вопросы истории естествознания и техники. М., 1985. № 1.

*Яўген Анішчанка.*

**Сака** (Sacco) Джузепе (Юзаф; 1735, г. Верона, Італія—22.12.1798), архітэктар. Прадстаўнік архітэктуры барока і класіцызму. З 1773 у Гародні. Прыдворны архітэктар А.*Тызенгаўза* (1774), гал. архітэктар па будаўніцтве *Гарадзенскіх каралеўскіх мануфактур*. У 1770-я г. кіраваў будаўнічай школай на Гарадніцы ў Гародні. Пабудаваў Аўгустоўскі, Станіславоўскі палацы, *Свяцкі палац, Шчорсаўскі палац* (разам з архітэктарам К.*Спампані*). Удзельнічаў у афармленні інтэр'ераў і рэканструкцыі палаца Тызенгаўзаў у Гародні (разам з архітэктарам І.Г.*Мёзерам*), каралеўскага палаца ў *Гарадзенскім Новым замку*, ратушы ў Гародні (1775, разам з архітэктарам Фрэйліхам). Працаваў таксама ў Паставах (1770-я г.), Ішчалне (1776), Добасне (1781). Стварыў праект ратушы ў Вільні (1784, не ажыццёўлены).

**Сакалінскія**, княжацкі род, гл. *Друцкія-Саколінскія*.

**Сакалоўскі** Ян (Іван;?—пасля 1651), удзельнік казацка-сялянскага руху на Украіне і Беларусі. Паходзіў з бел. правасл. шляхты. З пачаткам Нац.-вызваленчай вайны ўкр. народа далучыўся да паўстанцаў. Улетку 1648 з атрадам казакоў з'явіўся ў паўд. паветах ВКЛ, штурмаваў Мазыр. Прыблізна ў гэты час стаў «кастырскім гетманам». У ліп. 1648 з 2-тысячным атрадам рушыў на Слуцк і пасля няўдалых штурмаў узяў горад у аблогу. Быў цяжка паранены ў час контратакі слуцкага гарнізона, зняў аблогу і адышоў ад горада. У 1649 удзельнічаў у перагаворах з рас. паслом К.Ункоўскім, у 1650 сустракаў у Жытоміры кароннага пасла А.Кісяля. У 1651 страціў пасаду «кастырскага гетмана», далейшы лёс С. невядомы.

*Літ.*: Мицик Ю. Ян Соколовський // Полководці Війська Запорозького. Київ, 2004. Кн.2.

*Станіслаў Чаропка.*

**Саковіч** Фабіян (6.11.1742, Беларусь—1787?), паэт і перакладчык. У 1759—62 вучыўся ў Віцебскім і Нясвіжскім езуіцкіх калегіумах; выкладаў у Нясвіжы. З 1766 у Варшаве, у 1772—77 супрацоўнічаў у час. «Zabawy przyjemne i pożyteczne» («Прыемныя і карысныя забавы»), дзе апублікаваў большасць сваіх вершаў (некаторыя з іх прысвечаны ўраджэнцам і жыхарам Беларусі). Пераклаў на польскую мову песні Гарацыя (т. 1—2, 1773—75). У 1777 памагаў А.*Нарушэвічу* перапісваць тэксты для яго «Гісторыі». Жыў у яго маёнтку Павец каля Пінска. У 1778 пераехаў у в. Чарнаўчыцы.

*Адам Мальдзіс.*

**Саковічы**, шляхецкі род герба «Помян». Родапачынальнік Сак (Станіслаў) пры заключэнні *Гарадзельскай уніі 1413* быў адаптаваны да герба «Помян», у 1433 быў старастам дубінскім. Найб. вядомыя:

Алехна, сын Сака. Намеснік бельскі, кухмістр ВКЛ у 1466.

Андрэй (?—1465), сын Сака. Староста троцкі ў 1433—40, намеснік смаленскі ў 1440 і полацкі ў 1444—53, ваявода троцкі з 1458. Адзін з кіраўнікоў войска ВКЛ у пераможнай бітве з маскоўскім войскам пад Сухадровам у 1445. Удзельнік перагавораў з крыжакамі ў 1432 і 1451, пасол у Чэхію ў 1453. Меў буйныя зямельныя ўладанні — частку Немянчынскай вол., Дуброву ў Менскім пав., Солы і Мядзел у Ашмянскім пав. і інш. (каля 500 дымоў). Ад яго сына Юрыя пайшоў род Насілоўскіх.

Багдан Андрэевіч (?—1491), сын Андрэя. Намеснік браслаўскі ў 1463—74, маршалак гаспадарскі



Да арт. **Саковічы**. Пячатка Сака (Станіслава). 1422.

ў 1463—77, намеснік полацкі ў 1477—84, маршалак земскі з 1480, адначасова ваявода троцкі з 1484. Быў паслом да крымскага хана Менглі-Гірэя ў 1473, у Маскву ў 1474 і 1482.

*Літ.*: Kelma E. Rod Sakowiczów i jego majętności w XV i pierwszej połowie XVI wieku // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Саковічы**, шляхецкі род герба «Корвін» зменены. Прадстаўнікі роду жылі ў Ашмянскім, Менскім, Лідскім, Віцебскім паветах. Найб. вядомыя:

Адам Мацей (?—23.3.1662), падкаморы ашмянскі ў 1628, віленскі падваявода ў 1633—40 і канюшы ў 1645, стараста ашмянскі ў 1649, ваявода смаленскі з 1658, адначасова адміністратар скарбу ВКЛ з 1659. Шматразовы пасол на соймы і дэпутат Трыбунала ВКЛ ад Ашмянскага і Менскага пав. Валодаў мяст. Зембін і навакольнымі вёскамі ў Менскім пав., маёнткамі ў Ашмянскім пав.

Андрэй, падчашы жамойцкі і падстараста ковенскі ў 1638.

Людвік (?—1756), сын Уладзіслава, пісар скарбовы ВКЛ з 1722.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Саколінскія**, княжацкі род, гл. *Друцкія-Саколінскія*.

**Сакольскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1793—95 у складзе *Гарадзенскага ваяводства*. Цэнтр — мяст. Саколка (цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча). Створаны на аснове паўд.-зах. парафій Гарадзенскага пав. і Ялоўскай парафіі Ваўкавыскага пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) большая частка С.п. ў складзе Прусії, усх. раёны — у Рас. імперыі.

**сакратар** (ад позналац. secretarius першапачаткова давераная асоба), пасада ў ВКЛ. 1) Службовая асоба ў канцылярыі ВКЛ, якая непасрэдна займалася справаводствам вял. князя (караля) і прызначалася ім. Упершыню ўпамінаецца ў 1407, часам такназываліся велікакняжацкія *пісары*, як мяркуецца, найб. заслужаныя з іх. З 2-й пал. 16 ст. С. — асобная пасада, часам іх дзейнасць не была звязана проста са справаводствам (выконвалі абавязкі *мернікаў*, рэвізораў, *паборцаў*, памежных *камісараў* і інш.). Некаторыя С. вялі дакументацыю *Рады Вялікага княства Літоўскага*, што пазней рабілі *рэгенты*. 2) С. вялікі духоўны — міністэрская пасада, асобная ад апарата канцлера і падканцлера ВКЛ. Утворана на сойме 1670. Прызначаўся каралём з духоўных асоб, вёў спецыяльна даручаныя справы. 3) С. вялікі свецкі — міністэрская пасада. У пач. 16 ст. з тытулам «найвышэйшы сакратар ВКЛ» выступаў пісар І.С.Сапега, як мяркуецца, на ўзор адпаведнай пасады ў Польшчы. Сталая пасада С. вялікага свецкага ўстаноўлена ў ВКЛ на каранацыйным сойме 1764.

*Літ.*: Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII wieku: Spisy. T. 11. Kórnik, 1994.

**Салагубы** (Давойна-Салагубы), шляхецкі род герба «Праўдзіц». Родапачынальнік Андрэй жыў у 2-й пал. 15 ст. З 17 ст. ўжывалі прыдомак Давойна, з 18 ст. карысталіся графскім тытулам. Найб. вядомыя:

Юрый Андрэевіч (?—1514), намеснік смаленскі ў 1503—07.

Ян Міхал (?—5.5.1748), сын Геранімa. Чашнік жамойцкі ў 1713, падкаморы гастынскі ў 1722—24, лоўчы ВКЛ у 1724—31, вял. падскарбі ВКЛ у 1731—46, ваявода берасцейскі з 1746; брыгадзір войска ВКЛ (1724), маршалак Трыбунала ВКЛ у 1729 і 1747, стараста рэчыцкі, азярышчанскі, стралецкі і санніцкі. Валодаў Горы-Горкамі, Чарэяй, Туравам.

Юзаф Антоній (26.7.1709—1781), сын Яна Міхала. Кашталян жамойцкі ў 1742—48 і віцебскі ў 1748—52, ваявода віцебскі з 1752; палкоўнік, стараста эйшышскі і санніцкі. Як і брат, тытулаваўся графам на Іллі, Івянцы, Тураве і Горы-Горках. Кавалер ордэна Белага Арла.

Антоній (? — вер. 1759), сын Яна Міхала. Палкоўнік, генерал артылерыі з 1746; стараста азярышчанскі. Кавалер ордэна св. Станіслава.

Ян (?—1812), сын Антонія. Маёр артылерыі, з 1774 генерал-ад'ютант караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. З'ехаў у Расію, палкоўнік рас. арміі, камандзір Славянскага гусарскага палка з 1777, Бел. гусарскага палка з 1779, ген.-маёр (1785); у 1794—98 шлісельбургскі павятовы прадвадзіцель дваранства. Кавалер ордэнаў св. Станіслава і Белага Арла, гальштынскага ордэна св. Ганны. Яго нашчадкі [у т.л. ўнук — рус. пісьменнік Уладзімір Аляксандравіч Салагуб (1813—82)] атрымалі ў Расіі 27.2(11.3).1861 пацвярджэнне графскага тытула.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Саламярэцкія**, княжацкі род герба «Равіч». Па паходжанні Рурыкавічы, прозвішча ад назвы маёнтка Саламярэч у Менскім пав. (цяпер в. Саламарэчча Мінскага р-на). Паходзяць ад Івана Дзмітрыевіча (мянушка Шах), унука смаленскага вял. кн. Святаслава Глебавіча (?—1310). Іван Дзмітрыевіч меў сыноў Юрыя, Фёдара і Сямёна, ад сына Юрыя — Васіля па мянушцы Тацішч паходзіць рас. дваранскі род Тацішча-




Да арт. **Саламярэцкія**. Герб Б.Б.Саламярэцкага з кнігі «Евангелле вучыцельнае». Еўе. 1616.

вых, ад Фёдара або Сямёна — род С. Найб. вядомыя:

Васіль Іванавіч (?—да 8.9. 1540), сын Івана Васілевіча. Дзяржаўца кернаўскі ў 1512, дзяржаўца магілёўскі з 1520. У 1528 выстаўляў у войска ВКЛ 15 коннікаў. Валодаў маёнткамі Саламярэч (заснаваў там манастыр), Асташын, Плешчаніцы, Хатаевічы, Домжарычы, Будзінічы, Гогаліца, замкам Камень.

Фёдар Васілевіч (?—каля 1540), сын Васіля Іванавіча. Каралеўскі дваранін, у 1533 умацоўваў Мсціслаўскі замак, у 1540 дзяржаўца медніцкі.

Юрый Васілевіч (?—1559?), сын Васіля Іванавіча. Дзяржаўца ашмянскі ў 1546—51.

Іван Васілевіч (?—1578?), сын Васіля Іванавіча. Дзяржаўца аінскі ў 1541—52, дабосненскі ў 1552—55, глускі ў 1552—56, быхаўскі ў 1555—56, староста мсціслаўскі і радамльскі з 1558, першы кашталян мсціслаўскі з 1566. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Валодаў Саламярэччу, Гогаліцай, Плешчаніцамі, Сёмкавым Гарадком ў Менскім пав., Асташынам у Навагародскім пав., Кельмамі ў Жамойці. Апекваў правасл. цэрквы.

Багдан Іванавіч (?—7.9. 1602), сын Івана Васілевіча. Староста крычаўскі і лучыцкі з 1580, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1596. Удзельнічаў у Інфлянцкай вайне 1558—82, падаўленні *Налівайкі паўстання 1595—96*. Праціўнік Берасцейскай царк. уніі 1596, падтрымліваў правасл. брацтвы, будаваў цэрквы. Валодаў мяст. Саламярэч, в. Старыя Саламярэчы, Саламярэцкі Гарадок, жонка Ева Корсак прынесла яму ў пасаг Баркулабава ў Аршанскім пав. Заснаваў мяст. Баркулабава і Багданава.

Багдан Багданавіч (1589—1630), сын Багдана Іванавіча. Староста крычаўскі і лучыцкі з 1602. У 1626 з сястрой Аленай выдаў ліст на заснаванне ў Баркулабаве правасл. мужчынскага Святадухаўскага манастыра.

Багдан Васілевіч (?—1565), сын Васіля Іванавіча. Дзяржаўца аінскі ў 1555, дзяржаўца (староста) рагачоўскі з 1559. Удзельнічаў у Інфлянцкай вайне 1558—82. Заснаваў *Баркулабаўскі Узнясенскі манастыр*.

Іван Багданавіч (? — пасля 1599), сын Багдана Васілевіча. Выступаў супраць Берасцейскай уніі 1596, у 1599 удзельнічаў у сумесным саборы 1599 праваслаўных і пратэстантаў у Вільні. Валодаў Лахвай, Асташынам, Плешчаніцамі, Гогаліцай.

Мікалай Леў (?—1626 або 1627), сын Івана Багданавіча. Падкаморы пінскі ў 1608—23, кашталян смаленскі з 1623, пасол на сойм 1613, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1616. Валодаў Высоцкам, Дубровіцай, Царабяжовам, Столінам у Пінскім пав., Плешчаніцамі ў Менскім пав., маёнткамі на Валыні.

Ян Уладзіслаў (?—лют. 1641), сын Мікалая Льва. Маршалак пінскі з 1629, пасол на сойм 1638. З яго смерцю род С. згас.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 493—503.

***Валерый Пазднякоў.***

**Салаўёў** (Соловьёв) Сяргей Міхайлавіч [5(17).5.1820, Масква—4(16).10.1879], расійскі гісторык. Чл. Пецярбургскай АН (1872), д-р рус. гісторыі, праф. (1847). Скончыў Маскоўскі ун-т (1842), з 1847 выкладаў у ім, у 1871—77 рэктар. У апошнія гады жыцця старшыня Маскоўскага т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх, дырэктар Аружэйнай палаты ў Крамлі. У гіст. і грамадска-паліт. поглядах эвалюцыяніраваў ад славянафільства да памяркоўна-ліберальнага заходніцтва. У сваёй гал. працы «Гісторыя Расіі з найстаражытнейшых часоў» (т. 1—29, 1851—79) проціпаставіў суб'ектывісцкім поглядам М.М.Карамзіна сваю гіст. канцэпцыю. Чалавечае грамадства ўяўлялася С. цэласным арганізмам, які развіваецца «натуральна і неабходна». Гіст. развіццё зводзіў да змянення дзярж. форм, грамадска-эканам. жыццю адводзіў другарадную ролю ў параўнанні з паліт. гісторыяй. Адзначаў агульнасць рыс у развіцці Зах. Еўропы і Расіі, аднак бачыў своеасаблівасць апошняй у геапаліт. становішчы краіны, псіхалогіі народа, у яго ўзаемаадносінах з суседзямі.

Гісторыю Беларусі разглядаў у кантэксце развіцця рас. дзяржаўнасці ад гісторыі «старажытна-рускіх княстваў» (Полацкае, Тураўскае і інш.) на чале з Кіевам, перарванай літ.-польскім панаваннем і завершанай уз'яднаннем з Расіяй. Прызнаваў нац. аснову працэсу ўтварэння рас. дзяржавы, але паняцце «народ» пашыраў толькі на рускіх, пад якімі разумеў разам з велікаросамі, маларосамі (украінцамі) і беларусаў. Толькі гэтыя народы С. атаясамліваў з Рас. дзяржавай. Сцвярджаў, што калі цэнтр гіст. жыцця старараж.-слав. дзяржавы стаў перамяшчацца на У, сувязі Усх. і Зах. Русі пачалі слабець, у выніку Белая Русь «зрабілася здабыткам Літвы і Польшчы». У «культурным» руху Расіі на 3 лічыў важным «вяртанне да старых мясцін рускай дзяржаўнасці і жыцця». Адзначаў негатыўныя з'явы жыцця Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай, якія тлумачыў польскім уплывам: разбэшчанасць шляхты, нястрыманасць лацінскай прапаганды, прыгнечаны стан сялянства. Усё гэта, паводле С., адбывалася з-за слабасці рус. дзяржавы, якая не здолела ўтрымаць свае зах. землі. У гісторыі Беларусі не здолеў убачыць шмат таго, што выходзіла за межы канстатацыі фактаў. Унутраныя супярэчнасці ў Беларусі ў перыяд ВКЛ і Рэчы Паспалітай трактаваў найперш як рэліг. барацьбу насельніцтва супраць націску каталіцызму, станоўча ацэньваў ролю правасл. царквы ў гэтай барацьбе. Гісторыю Беларусі канца 18—пач. 19 ст. адлюстраваў у «Гісторыі падзення Польшчы» (1863), дзе ў ліку прычын падзелаў Рэчы Паспалітай на першае месца ставіў мясц. нар. рух, які ажыццяўляўся пад рэліг. сцягам. Ініцыятыву падзелаў ускладаў на Прусію, якая набыла ў ходзе гэтых падзей значную частку этнічна польскіх зямель. Фактaлагічны бок прац С. да нашага часу не страціў сваёй актуальнасці для вывучэння гісторыі Беларусі.

*Тв.*: Сочинения. М., 1988—96.

*Літ.*: Иллерицкий В.Е. С.М.Соловьев. М., 1980; Пашуто В.Т., Шульгин В.С. Комментарии к «Истории России с древнейших времен» // Соловьев С.М. Соч. М., 1988. Кн. 1, т. 1—2; Цимбаев Н.И. Сергей Соловьев. М., 1990.

***Валерый Чарапіца.***

**Салінскі дагавор 1398**, Залінвердзінскі дагавор, дагавор паміж ВКЛ і Нямецкім ордэнам. Тэкст дагавора ўзгоднены 23.4.1398 у Гародні, абмен дагаворнымі граматамі паміж вял. кн. літоўскім Вітаўтам і вял. магістрам ордэна Конрадам фон Юнгінгенам адбыўся 12.10.1398 на в-ве Салін на Нёмане, каля вусця р. Нявежыс. Павод-



ле С.д. прадугледжвалася дапамога ВКЛ ордэну для заваявання Пскова і ордэнская падтрымка ВКЛ для авалодання Вял. Ноўгарадам і паходу супраць Залатой Арды. Вітаўт абяцаў саступіць ордэну Жамойць да Нявежыса і палову Судавы (Дайнавы), у сваю чаргу ордэн абавязваўся не падтрымліваць прэтэнзій кн. Свідрыгайлы на трон ВКЛ. Неафіцыйна Вітаўт заручыўся згодай ордэна на ажыццяўленне сваіх планаў дабівацца поўнай незалежнасці ад Польшчы; на святкаванні ў гонар падпісання С.д. Вітаўт быў аднадушна абвешчаны феадаламі ВКЛ «каралём Літвы і Русі». Гэта выклікала насцярожанае стаўленне да дагавора польскага караля Ягайлы, а планы захопу Ноўгарада і Пскова прывялі да пагаршэння адносін ВКЛ з гэтымі рэспублікамі, а таксама Маскоўскім і Цвярскім вял. княствамі. Рэальнай падтрымкі ў рэалізацыі сваіх памкненняў Вітаўт не атрымаў, што, у прыватнасці, прывяло да паражэння войск ВКЛ у *бітве на Ворскле 1399*. Умовы С.д. былі ўдакладнены *Рацёнжскім дагаворам 1404*, да якога далучылася і Польшча.

*Літ.*: Liv.-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch nebst Regesten. Abt. 1. Bd. 4. Dorpat, 1859; Сагановіч Г. Ад Крэва да «Вялікае вайны» // Спадчына. 2000. № 1.

***Алесь Белы.***

**салянка**, мера аб'ёму сыпкіх рэчываў (солі, збожжа, попелу) і вадкасцей у ВКЛ у 16—18 ст. У інвентарах феад. уладанняў С. мелі розныя мясц. значэнні, прыраўноўваліся да 18, 36, 40 гарцаў, асьміны, паловы віленскай бочкі. Звычайна С. прыраўноўвалася да 1/6 віленскай бочкі, якая змяшчала 144 малыя (шынковыя) гарцы па 2,823 л, адсюль С. адпавядае 67,75 л. Пры першапачатковым значэнні віленскай бочкі, роўнай 4 кракаўскім карцам (482,42 л), С. адпавядае 80,40 л.

*Літ.*: Горбачевский Н.И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874; Baraniecki M.A. O miarach prawnych i zwyczajowych w Polsce // Wszechświat. 1883. Т. 2. № 44, 45; Falniowska-Gradowska A. Miary zbożowe w województwie krakowskim w XVIII w. // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1965. № 4.

***Яўген Анішчанка.***

**Сангушка** Раман Фёдаравіч (каля 1537—12.5.1571), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Сангушкаў*. У 1566—69 выконваў абавязкі (спраўца) польнага гетмана, з 1569 польны гетман ВКЛ, адначасова з 1557 староста жытомірскі, з 1566 ваявода брацлаўскі, з 1568 староста рэчыцкі. З 1555 знаходзіўся на вайсковай службе, дзе адразу паказаў сябе як таленавіты военачальнік. Удзельнічаў у абароне ВКЛ ад татараў у 1558, у *бітве на Уле 1564*. Быў арганізатарам эфектыўнай абароны ў паўн.-ўсх. Беларусі ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У час знаходжання на Полаччыне ў 1567—69 атрымаў некалькі перамог над маскоўскімі войскамі. У жн. 1568 арганізатар і кіраўнік удалай аперацыі па здабычы Улы — замка, пабудаванага маскоўцамі ў 1566 (гл. *Улы аблога 1568*). Гэта дазволіла значна палепшыць стратэгічнае становішча ВКЛ у вайне. Прадпрымаў меры па будаўніцтве замкаў у вусці р. Туроўля і Крывіна, а таксама ў Чашніках і Лепелі. Быў прыхільнікам узмацнення велікакняжацкай улады ў ВКЛ. У дачыненні да падзей на Люблінскім сойме 1569 спачатку заняў чакальную пазіцыю, аднак 2.7.1569 падпісаў акт Люблінскай уніі. Не пярэчыў перадачы ўкр. зямель Польскай Кароне, спадзеючыся на яе падтрымку ў Інфлянцкай вайне. Праваслаўны. Быў жанаты на дачцэ Рыгора Хадкевіча Аляксандры. Меў сына Рамана Фёдара, дачок Мар'яну, Аляксандру і Фядору.

***Андрэй Янушкевіч.***

**Сангушкі**, княжацкі род герба «Пагоня». Генеалогі 16—18 ст. (Б.Папроцкі, Ш.Акольскі, К.Нясецкі і інш.) выводзілі іх ад *Любарта*, сына Гедзіміна, таму некаторыя прадстаўнікі роду пісаліся Сангушкамі-Любартавічамі. Даказаным з'яўляецца паходжанне роду ад Фёдара Альгердавіча (?—каля 1431), які меў сыноў Сангушку (памяншальны варыянт імя Аляксандр, Васіль або Сямён) — родапачынальніка С., Фёдара, князя ўладзімірскага, Рамана, родапачынальніка князёў *Кобрынскіх*, і Гурку, родапачынальніка князёў Гуркавічаў. С. валодалі маёнткамі пераважна на Валыні. Ад сыноў Сангушкі Аляксандра (?—да 1491) і Міхаіла (?—пасля 1511) пайшлі кашырска-несухаіжская і ковельская лініі роду, прадстаўнікі якіх карысталіся прозвішчамі Сангушкі-Кашырскія і Сангушкі-Ковельскія. У 15—18 ст. займалі вышэйшыя дзярж. пасады ў ВКЛ і Польшчы. Спачатку вызнавалі праваслаўе, з 16 ст. пераходзілі ў каталіцтва. Найб. вядомыя:

Сангушка (? — пасля 1454), сын Фёдара Альгердавіча. У спадчыну ад бацькі і старэйшага брата Фёдара атрымаў Кашырск, Грабава, Несухаіжы, Ковель, Любомль, Ратна і інш. маёнткі на Валыні. У час *феадальнай вайны 1432—39* спачатку падтрымліваў Жыгімонта Кейстутавіча, у канцы 1430-х г. увайшоў у раду Свідрыгайлы. Удзельнічаў у абранні на трон ВКЛ у 1440 вял. кн. Казіміра IV Ягелончыка. Валодаў маёнткамі каля Берасця, якія атрымаў ад Жыгімонта (Трасцяніца) і Казіміра (Каросцічы, Аляшковічы, Шчаславічы).

Васіль (?—1557?), сын Міхаіла Сангушкавіча. Каралеўскі дваранін, у 1516 атрымаў у спадчыну вял. ўладанні на Валыні. У 1543 перадаў вял. княгіні Боне Ковельскі маёнтак узамен за Горваль каля Рэчыцы, Смаляны і Абольцы ў Віцебскім ваяв., стварыўшы буйную латыфундыю С. на Беларусі; адначасова стаў трымальнікам Свіслацкай дзяржавы-староства (да 1552).

Андрэй Міхайлавіч (?—4.10.1560), сын Міхаіла Аляксандравіча, унук Аляксандра Сангушкавіча. Маршалак гаспадарскі ВКЛ у 1522—53, спраўца Кіеўскага ваяв. ў 1540—42, староста луцкі ў 1542—59. У 1508, 1512—14 удзельнічаў у войнах з Маскоўскай дзяржавай, у 1512, 1515 — з татарамі. Валодаў маёнткамі на Валыні, у Навагародскім ваяв. (Дзярэчын), Гарадзенскім (Кузніца), Берасцейскім (Кусцін), Кобрынскім паветах.

Аляксандр (каля 1508—65), сын Андрэя Міхайлавіча. Дзяржаўца гомельскі ў 1535—36, маршалак гаспадарскі ВКЛ з 1547. У 1534—35 і 1564 удзельнічаў у войнах з Маскоўскай дзяржавай, у 1539 і 1561 — з татарамі. Акрамя маёнткаў на Валыні валодаў Дзярэчынам, Рэчыцай, Кусцінам у Беларусі.

Раман Фёдаравіч (каля 1537—12.5.1571), гл. *Сангушка* Р.Ф.

Рыгор (?—1602), сын Льва. Кашталян любачоўскі ў 1597—98 і брацлаўскі з 1598. Актыўны абаронца праваслаўя, удзельнічаў у сумесным саборы 1599 праваслаўных і пратэстантаў у Вільні. Меў маёнткі на Валыні, Татаравічы ў Менскім пав., Кабыльнік у



Ашмянскім пав., Быхава і Бярэжаны ў Пінскім пав.

Самуэль Сямён (Шыман Самуэль; ?—ліст. 1638), сын Андрэя. Вучыўся ў Інгальштацкім ун-це. Удзельнічаў у войнах супраць Швецыі 1600—29 і Расіі 1609—18. Маршалак аршанскі ў 1620, кашталян мсціслаўскі ў 1620—21 і віцебскі ў 1621—26, ваявода віцебскі з 1626. Уваходзіў у склад камісіі па расследаванні забойства ў 1623 у Віцебску полацкага уніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча. Валодаў Смалянамі, Абольцамі, Горвалем. У Смалянах пабудаваў замак Белы Ковель (гл. *Смалянскі замак*). Сабраў вял. б-ку, склаў радавод С., выводзячы іх ад Любарта, займаўся маляваннем і гравюрай. Аўтар друкаваных прамоў. Перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва.

Геранім Уладзіслаў (3.2. 1611, Смаляны—5.7.1657), сын Самуэля Сямёна. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, дзе ў 1628 стаў езуітам, у Кракаве, Сандаміры, Познані. У 1640 выйшаў з ордэна езуітаў. Сакратар Уладзіслава IV, суфраган (намеснік біскупа) віленскі з 1644, біскуп смаленскі з 1654.

Казімір Антоні (1677—30.5.1706), сын Героніма. З 1699 неаднаразова выбіраўся паслом на соймы. Маршалак дворны ВКЛ у 1702—03 і вялікі ў 1703. Прыхільнік Аўгуста II. Валодаў Ракавам у Менскім ваяв., Крупкамі, Няклюдавам і Абольцамі ў Аршанскім пав. і інш., трымаў Падусвяцкае і Больніцкае старасты.

Павел Кароль (1680—14/ 15.4.1750), сын Героніма. Стольнік ВКЛ у 1708—09 (прызначаны Станіславам Ляшчынскім), палкоўнік гвардыі ВКЛ (1711), падскарбі дворны ў 1711—13, маршалак дворны ў 1713—34 і вялікі з 1734. Прыхільнік Аўгуста II. Пасля яго смерці (1733) быў сярод прэтэндэнтаў на трон Рэчы Паспалітай (меў падтрымку Расіі), пасля падтрымаў абранне Аўгуста III. Валодаў Смалянамі, Палоннай, Гаўрылкавам і Янавам у Віцебскім ваяв., Дабраўлянамі і Смаргонню ў Віленскім ваяв., палацамі ў Гародні і Дабраўлянах, маёнткамі на Украіне, у Польшчы і Славакіі.

Януш Аляксандр (5.5. 1712—13.9.1775), сын Паўла Караля. Выбіраўся паслом на соймы. Мечнік ВКЛ у 1735—50, маршалак дворны ў 1750—60.

Юзаф Паўлін Ян Адам (20. 6.1740—12.5.1781), сын Паўла Караля. Староста крамянецкі ў 1752—80, маршалак дворны ВКЛ у 1760—68 і вялікі з 1768. На сойме 1767—68 абвясціў «Праект рэформы ўрада», які прадугледжваў прыняцце адзінага кодэкса права для ўсёй Рэчы Паспалітай. Падпісаў акт *Кардынальных правоў*. У 1771 таемна далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*. Меў палацы ў Менску і Гародні.

Геранім Януш [4.3.1743—23.8(4.9).1812], сын Паўла Караля. Вучыўся ў «Калегіум нобіліум» у Варшаве. Генерал-маёр кароннага войска (1762), генерал-паручнік войска ВКЛ (1775), мечнік ВКЛ у 1775, ваявода валынскі з 1775. Выбіраўся паслом на соймы, на *Чатырохгадовым сойме 1788—92* выступаў супраць *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Далучыўся да *Таргавіцкай канфедэрацыі* і атрымаў чын генерал-паручніка рас. арміі (1793). Удзельнічаў у *паўстанні 1794*, у Гародні прыняў камандаванне над войскам ВКЛ і прывёў яго на абарону Варшавы. Пасля паўстання жыў у сваіх маёнтках на Валыні, у Беларусі валодаў Дабраўлянамі.

*Літ.*: Archiwum książąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie. T. 1—7. Lwów, 1887—1910; Лонгинов А.В. Князь Федор-Любарт Ольгердович и его потомки князья Сангушки: (Генеал. исслед.) // Тр. Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX археологического съезда. Вильна, 1893; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastrgo wieku. Warszawa, 1895. S. 422—455; Radzimiński Z. Monografia ks. Sanguszków oraz innych potomków Lubarta Fedora Olgerdowicza ks. Ratneńskiego. T. 1—2. Lwów, 1906—11; Piotrowski M. Rodowód książąt Sanguszków Olgierdowiczów. Gumniska, 1931; Chrzanowska P. Sanguszkowie. Tarnów, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сандамірская канфедэрацыя,** саюз шляхты Рэчы Паспалітай, створаны ў час *Паўночнай вайны 1700—21* для падтрымкі караля польскага і вял. князя літоўскага Аўгуста II. Становішча Аўгуста II рэзка пагоршылася, пасля таго як у пач. 1702 войска шведскага караля Карла XII уступіла ў Рэч Паспалітую, у маі 1702 захапіла Варшаву, а 20.7.1702 разбіла войска Аўгуста II пад Клішавам. Узрасла незадаволенасць шляхты палітыкай Аўгуста II у Рэчы Паспалітай, асабліва прысутнасцю ў краіне саксонскага войска (Аўгуст II адначасова быў курфюрстам Саксоніі). Каб забяспечыць сабе падтрымку польскай шляхты, Аўгуст II склікаў пад Сандамірам канфедэрацыю (абвешчана 22.8.1702, маршалак — лоўчы ВКЛ С.Э.Дэнгаф). Аднак яна была малалікай і не мела значных узбр. сіл. Канфедэраты патрабавалі ад караля вывесці саксонскія войскі з Рэчы Паспалітай, захоўваць былыя міжнар. дагаворы і інш. Аўгуст II прыняў умовы. Частка шляхты падтрымлівала ўладу шведаў і прэтэндэнта на трон Станіслава Ляшчынскага. На Люблінскім сойме 1703 яе інтарэсы не былі ўлічаны, таму ў ліп. 1703 яна стварыла Велікапольскую канфедэрацыю ў падтрымку Ляшчынскага і шведаў, а ў студз. 1704 пераехала ў Варшаву і абвясціла сябе генеральнай канфедэрацыяй Рэчы Паспалітай (т.зв. Варшаўская канфедэрацыя). У крас. 1704 яна абвясціла пра дэтранізацыю Аўгуста II. У адказ кароль склікаў у Сандаміры сваіх прыхільнікаў, 20.5.1704 С.к. абвясціла сябе генеральнай і выступіла супраць рашэнняў Варшаўскай канфедэрацыі, выказалася за працяг вайны са Швецыяй, упаўнаважыла Аўгуста II склікаць паспалітае рушэнне, заключыць саюз з Даніяй. 30 жн. прадстаўнікі С.к. заключылі *Нарвенскі дагавор 1704* з Расіяй аб саюзе і сумеснай барацьбе са Швецыяй. Пасля ваенных няўдач Аўгуста II і яго адрачэння ад трона (Альтранштацкі дагавор 24.9.1706) С.к. ўстанавіла цесныя адносіны з царом Пятром I. Генеральная рада С.к. ў Львове ў лют.—сак. 1707 ухваліла Нарвенскі дагавор з Расіяй, пастаўкі харчоў для рас. войск у Рэчы Паспалітай, аднак патрабавала ад цара спыніць рабаўніцтвы з боку яго арміі, выплаціць субсідыі для войска Рэчы Паспалітай, вярнуць пад кантроль улад Рэчы Паспалітай Правабярэжную Украіну, занятую ў час падаўлення сялянска-казацкіх хваляванняў. С.к. абвясціла бескаралеўе ў Рэчы Паспалітай, аднак не парывала сувязей з Аўгустам. С.к. прэтэндавала на ролю выразніка інтарэсаў б.ч. шляхты Рэчы Паспалітай, а яе рады — на вышэйшыя органы дзярж. улады. Пасля перамогі Пятра I у Палтаўскай бітве 1709 і аднаўлення ўлады Аўгуста II у Рэчы Паспалітай С.к. кан-

тралявала і тэр. Беларусі. Вальная рада С.к. ў Варшаве ў лют.—крас. 1710, якая легалізавала статус Аўгуста II як караля, прызнана паўнамоцнай нароўні з соймам Рэчы Паспалітай; канфедэрацыя кантралявала правядзенні наступных соймаў 1712—13. С.к. стала інструментам Аўгуста II у правядзенні яго палітыкі ў Рэчы Паспалітай, што выклікала супрацьдзеянне інш. шляхецкіх груповак. Распушчана «Нямым» соймам 1717 разам з *Віленскай канфедэрацыяй 1716* і *Тарнагродскай канфедэрацыяй*.

*Літ.*: Jarochowski K. Dzieje panowania Augusta II: Od wstąpienia Karola XII na ziemię polską aż do elekcji Stanisława Leszczyńskiego (1702—1704). Poznań, 1874; Kamiński A. Konfederacja sandomierska wobec Rosji w okresie poaltranstadzkim, 1706—1709. Wrocław etc., 1969.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сансон д'Абевіль** (Sanson d'Abbeville) Нікаля (1600—67), французскі картограф і географ караля Людовіка XIV. Заснавальнік французскай картаграфічнай школы. Выдаў больш за сотню карт і атласаў, у т.л. Рэчы Паспалітай. Аўтар асобных (партыкулярных) карт ваяводстваў ВКЛ, выдадзеных у 1660-я г.

*Літ.*: Moreland C., Bannister D. Antiq Maps. London, 1993; Sirko M. Zarys historii kartografii. Lublin, 1999; Казлоў Л.Р. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. 1. Мн., 2005.

***Леў Казлоў.***

**Сапега** Антоні Казімір (1689—16.5.1739), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Троцкі кашталян з 1737, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1714, 1719, 1724 (яго маршалак). У 1705—08 вучыўся ў Парыжы. У 1706 атрымаў урад стольніка ВКЛ ад Станіслава Ляшчынскага, які страціў у 1709 па вяртанні на трон Аўгуста II. У 1711—13 зноў у апазіцыі да Аўгуста II. Прыняў актыўны ўдзел у *Віленскай канфедэрацыі 1716* і 23 сак. падпісаў акт генеральнай канфедэрацыі як камісар ад Троцкага ваяв. У крас. 1716 абраны паслом ад канфедэрацыі да цара Пятра I, але пасольства не адбылося. У 1720-х г. у антыкаралеўскай апазіцыі. У 1726 разам са стрыечным братам Я.К.*Сапегам* ездзіў у Пецярбург для заручын сына апошняга Пятра з Марыяй Меншыкавай і для ўсталявання кантактаў з прадстаўнікамі рас. эліты. У 1728 беспаспяхова імкнуўся быць абраным паслом на сойм са слонімскага сойміка для далейшага атрымання соймавага маршалкоўства. Актыўна дзейнічаў на соймах 1730 і 1732, каб сарваць іх пасяджэнні. Прымаў актыўны ўдзел у заключэнні дамовы з Аўгустам II пра выкуп *«Нойбургскіх маёнткаў»*, пасля яе зрыву стараўся аб перамозе на Трыбунале ВКЛ 1731 і кіраваў спробай збройнага захопу маёнткаў. У пачатку бескаралеўя 1733 не вызначыўся з кандыдатурай будучага манарха, праводзіў беспаспяховыя кансультацыі са смаленскім біскупам Багуславам Гасеўскім, віцебскім ваяводам Марцыянам Агінскім і рэгіментарам ВКЛ Міхалам Вішнявецкім у Гародні. Як пасол са слонімскага сойміка імкнуўся стаць маршалкам канвакацыйнага сойма 1733. Быў падтрыманы Патоцкімі, Радзівіламі, рас. і аўстрыйскім пасламі. Разам з сваім супернікам лідскім старастам Сцыпіёнам адмовіўся на карысць 3-га прэтэндэнта на маршалкоўства гарадзенскага старасты Міхала Масальскага. Быў абраны палкоўнікам Слонімскага пав. На элекцыйным сойме 1733 з большасцю роду падтрымаў кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага. Разам з ім быў у абложаным рас. войскамі Гданьску. Па капітуляцыі арыштаваны, а потым знаходзіўся пры Ляшчынскім у Караляўцы. У 1737 палітычныя супернікі лічылі яго арганізатарам магчымай антыкаралеўскай канфедэрацыі. У 1738 прымаў актыўны ўдзел у працы камісіі па павелічэнні войска, беспаспяхова імкнуўся абкласці падаткам на войска радзівілаўскія «Нойбургскія маёнткі».

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Ежы Феліцыян (лют. 1680—3.9.1750), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Вучыўся за мяжой. Не ўдзельнічаў у вайне Сапегаў супраць шляхты і таму не падпаў пад антысапегаўскую пастанову, прынятую ў 1700 у Алькеніках. У першыя гады *Паўночнай вайны 1700—21* займаў нейтральнае становішча, у 1707 падтрымаў Станіслава Ляшчынскага. У 1708 разам са шведскімі войскамі рушыў пад Гародню, пасля знаходзіўся пры браце Яне Казіміры. Пасля вяртання Аўгуста III атрымаў амністыю. Удзельнічаў у антыкаралеўскай *Віленскай канфедэрацыі 1716*, быў абраны палкоўнікам Навагародскага ваяв. У 1720—пач. 1730-х г. прымаў актыўны ўдзел у шэрагах антыкаралеўскай апазіцыі. У час бескаралеўя 1733 займаў чакальную пазіцыю. Беспаспяхова імкнуўся быць абраным навагародскім павятовым палкоўнікам. Не пайшоў, як яго саюзнік М.К.Радзівіл, у шэрагі праціўнікаў Станіслава Ляшчынскага і са сваімі прыхільнікамі з Навагародскага ваяв. прыняў удзел у элекцыі Ляшчынскага. Быў з ім у аблозе ў Гданьску, належаў да яго найбліжэйшых асоб. Па капітуляцыі падпісаў дэкларацыю аб прызнанні каралём Аўгуста III. Актыўна пераконваў прыхільнікаў Ляшчынскага прызнаць Аўгуста III. Пасля праяўляў малую паліт. актыўнасць, пільнаваў у інтарэсах Сапегаў вынікі навагародскага сойміка (часта зрываў яго). З 1742 мсціслаўскі ваявода.

*Літ.*: Lisek A. Litwini na sejmie elekcyjnym w 1733 roku // Z dziejów XVII i XVIII wieku. Katowice, 1997; Macuk A. Szlachta województwa nowogródzkiego wobec Stanisława Leszczyńskiego i Augusta III w 1733 r. // Przegląd Historyczny. 2005. № 1.

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Казімір Леан (28.3.1697—30.5.1738), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Пачатковую адукацыю атрымаў дома пад кіраўніцтвам Ф.Шымановіча. У 1710—17 падарожнічаў па Францыі. У 1719, відаць, абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. У 1722 першы раз абраны паслом на сойм. На сойме 1724 вызначаны ў склад камісіі для перагавораў з замежнымі дыпламатамі. Генерал артылерыі ВКЛ з 1725. На сойме 1726 выбраны ў камісію па перагаворах з аўстрыйскімі дыпламатамі, у камісію па справах Курляндыі і па люстрацыі Ашмянскага пав. Быў паслом і на соймах 1729 і 1730. Яго асн. паліт. актыўнасць у 1720—пач. 1730-х г. тычылася барацьбы з Радзівіламі за *«Нойбургскія маёнткі»*. Актыўна дапамагаў Агінскім правесці абранне трыбунальскім маршалкам сапегаўскага кліента Міхала Эперыяша на Трыбунале ВКЛ 1731. Быў ініцыятарам дагавора з Агінскімі ў справе па захопу «Нойбургскіх маёнткаў». Прыняў удзел у падпісанні 7.4.1732 канчатковага дагавору з Радзівіламі аб адмове Сапегаў ад «Нойбургскіх маёнткаў» за 2 млн. злотых. Са старадубскага соймі-

ка абраны паслом на сойм 1732. У час бескаралеўя 1733 спачатку, як і большасць Сапегаў, выказаўся на карысць кандыдатуры Станіслава Ляшчынскага, але потым заняў нейтральнае становішча і нават адмовіўся прыбыць у Аршанскі пав., дзе шляхта абрала яго сваім павятовым палкоўнікам. Нейтральная пазіцыя і пратэкцыя Міхала Юзафа Сапегі дапамаглі атрымаць ад Аўгуста III шматлікія наданні: урад берасцейскага ваяводы (ад якога адмовіўся), званне ротмістра пяцігорскай харугвы, камандаванне лейбрэгіментам драгун каралеўскай гвардыі, ордэн Белага Арла. Працягваў актыўна ўдзельнічаць у Трыбунале ВКЛ у справах з Радзівіламі па вяртанні сум за «Нойбургскія маёнткі». Для атрымання ўраду падляшскага ваяводы вясной 1738 выехаў у Дрэздэн, дзе нечакана памёр.

*Літ.*: Lesiński J. Spory o dobra neuburskie // Miscellanea Historico-Archivistica. Warszawa, 1996. T. 6; Karkucińska W. Anna z Sanguszków-Radziwiłłowa. Warszawa, 2000; Мацук А. Род Радзівілаў ва ўнутрапалітычным жыцці ВКЛ у 20-ых—пачатку 30-ых гг. XVIII ст. // Вестник Полоцкого гос. ун-та. Гуманитарные науки. 2005. № 1.

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Леў Іванавіч (4.4.1557, в. Астроўна Віцебскага пав.—7.7.1633), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Са старэйшай, чарэйскай лініі магнацкага роду *Сапегаў*, сын Івана Іванавіча Сапегі, старасты дарагічынскага і падстарасты аршанскага, і Багданы Друцкай-Саколінскай. Пісар вялікі ВКЛ у 1581—85, падканцлер у 1585—89, канцлер у 1589—1623, ваявода віленскі з 1623 і адначасова гетман вялікі з 1625. Праваслаўны, вучыўся ў кальвініцкіх настаўнікаў у Нясвіжы, у 1570—73 у Лейпцыгскім ун-це, дзе перайшоў у кальвінізм. Добра ведаў замежныя мовы. У 1579—81 на чале гусарскай харугвы прымаў удзел у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Разам з канцлерам А.Б.*Валовічам* і падканцлерам К.*Радзівілам* удзельнічаў у стварэнні *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага*. У 1584 падпісаў у Маскве пагадненне аб новым перамір'і. У 1586 перайшоў у каталіцтва. У час бескаралеўя ў 1587 прапаноўваў план федэрацыі Польшчы, ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы з адным каралём, якім прапаноўваўся цар Фёдар Іванавіч. Калі гэты план не быў




Л.І.**Сапега**. Невядомы мастак. 1616.

рэалізаваны, падтрымаў кандыдатуру Жыгімонта III Вазы. Узначальваў соймавую камісію па падрыхтоўцы *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*, адрэдагаваў яго тэкст і фінансаваў яго выданне ў віленскай друкарні Мамонічаў. З 1589 як канцлер стаў кіраўніком знешняй і ўнутр. палітыкі ВКЛ. На царк. саборы ў Берасці ў 1596 як каралеўскі камісар выступіў у абарону царк. уніі. Па яго загадзе ў 1594—1607 былі нанава перапісаны кнігі *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага*, каб пры карыстанні яны не прыходзілі ў непрыгоднасць (новыя кнігі захаваліся да нашага часу). У 1600—01 узначальваў пасольства ў Маскву, у выніку якога перамір'е прадоўжана яшчэ на 20 гадоў, але дзярж. уніі з Масквой не дамогся. С. не падтрымаў Ілжэдзмітрыя I, бо лічыў за лепшае заключыць унію з Маскоўскай дзяржавай. У 1609, пераканаўшыся, што унія з Масквой не адбудзецца, выступіў за *вайну Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* і падтрымаў



Аўтограф Л.І.**Сапегі**.

*Ілжэдзмітрыя II*. Удзельнічаў у перагаворах з маскоўскімі пасламі, у выніку чаго падпісана *Дэўлінскае перамір'е 1618*. Пасля забойства уніяцкага полацкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча віцебскімі правасл. мяшчанамі ў 1623 С. ўзначаліў судовую камісію, якая вынесла суровыя пакаранні ўдзельнікам забойства. У 1625 удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* на чале дывізіі ў Інфлянтах. У сваёй палітыцы адстойваў суверэнітэт ВКЛ у складзе федэратыўнай Рэчы Паспалітай, няўхільна прытрымліваўся 12-га артыкула 3-га раздзела Статута ВКЛ 1588, які забараняў раздаваць польскай шляхце маёнткі і пасады ў ВКЛ. С. быў адным з найбагацейшых магнатаў, меў маёнткі з цэнтрамі ў Ружанах, Друі, Іказні, Чарэі, Талачыне, Копысі, Круглым, Коханаве,



Надмагілле Л.І.**Сапегі** і яго жонак у касцёле Міхала Арханёла ў Вільні.

Бялынічах, Лепелі, Асвеі, Бешанковічах, Горах, Горках і інш. Валодаў Слонімскім, Магілёўскім, Берасцейскім і інш. староствамі. Меў свае вайск. атрады. Садзейнічаў развіццю бел. кнігадрукавання. У Ружанах сабраў вял. б-ку. Увайшоў у гісторыю Беларусі як відны дзярж. дзеяч і дыпламат. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 45.

*Літ.*: Sapiehowie: Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1. Pb., 1890; Archiwum domu Sapiehów. T. 1. Lwów, 1892;

С а в е р ч а н к а І.В. Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега. Мн., 1992; Г р ы ц к е в і ч А. Леў Сапега (1557—1633) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. Вып. 1; Л а з у т к а С. Леў Сапега: Жыццё, дзяржаўная дзейнасць, палітычныя і філасофскія погляды: Пер. з літ. Магілёў, 2004.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Сапега** Міхал Антоні (10 або 12.3. 1711, г. Каралявец—11.10.1760), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Лоўчы ВКЛ з 1739, ваявода падляшскі з 1746, падканцлер ВКЛ з 1752. У 1720—21 вучыўся ў Караляўцы. Абраны паслом на сойм 1732, дэпутатам Трыбунала ВКЛ 1731. Унутры роду Сапегаў успыхнуў канфлікт паміж Аляксандрам Паўлам і Казімірам Леанам. У выніку Аляксандр Павел у жн. 1731 перадаў усе свае правы на *«Нойбургскія маёнткі»* Міхалу Антонію. У час бескаралеўя 1733 Міхал Антоні не прымаў актыўнага ўдзелу ў паліт. падзеях. З жонкай быў арыштаваны рас. войскамі і выпушчаны ў канцы 1734 пасля паручыцельства рэгіментара ВКЛ М.Вішнявецкага. Абраны на гарадзенскім сойміку соймавым паслом, Міхал Антоні ў 1737—39 прымаў актыўны ўдзел у працы камісіі па павелічэнні войска, дзе беспаспяхова дамагаўся дадатковага абкладання падаткамі радзівілаўскіх «Нойбургскіх маёнткаў». Пасля смерці ў 1739 стрыечнага брата, троцкага кашталяна Антонія Казіміра, стаў яго гал. спадчыннікам, што ўцягнула яго ў канфлікт з сястрой памерлага Саламеяй Ганнай, падтрыманай Радзівіламі. Міхал Антоні дапамог свайму саюзніку мсціслаўскаму ваяводзе Міхалу Масальскаму быць абраным дэпутатам Трыбунала ВКЛ і пасля стаць трыбунальскім маршалкам. У час працы Трыбунала было прынята рашэнне працягнуць барацьбу за спадчыну на Трыбунале ВКЛ 1743, маршалкам якога стаў Міхал Антоні. Разгляд маёмасных спрэчак з Радзівіламі закончыўся заключэннем кампрамісу. Міхала Антонія прыдворная групоўка Чартарыйскіх прапаноўвала кандыдатам на маршалка сойма 1744, але той адмовіўся, чым сапсаваў адносіны з «Фаміліяй». Развёўся са сваёй 1-й жонкай і ў 1745 ажаніўся з Тэкляй з Радзівілаў, удавой па Вішнявецкім (памерла ў 1747). Гэта значна павялічыла маёнткі Міхала Антонія, высунуўшы яго ў шэрагі найб.



Да арт. **Сапегі**. Міхал Антоні Сапега. Партрэт сярэдзіны 18 ст.

заможных магнатаў ВКЛ. Маёмасныя спрэчкі з Міхалам Казімірам Радзівілам канчаткова схілілі Міхала Антонія да саюзу з Чартарыйскімі, які быў замацаваны жаніцьбай у 1748 Міхала Антонія на Аляксандры, дачцэ падканцлера ВКЛ Міхала Чартарыйскага. Міхал Антоні стаў адным з лідэраў «Фаміліі». На сойме 1752 дзякуючы падтрымцы цесця (ужо канцлера ВКЛ) атрымаў урад падканцлера ВКЛ. Прымаў актыўны ўдзел у час барацьбы вакол Трыбуналаў ВКЛ 1755 і 1756. У 1756 быў адным з ініцыятараў аднаўлення павятовых попісаў і Генеральнага з'езда ВКЛ. У 1757 працаваў над прымірэннем «Фаміліі» і Радзівілаў. Зблізіўся з імі, і менавіта яго нейтральная пазіцыя прывяла да перамогі радзівілаўскай групоўкі на Трыбунале 1757. Канчаткова парваў з Чартарыйскімі пасля сойма і Рады Сената 1758, калі насуперак волі інш. лідэраў «Фаміліі» паставіў пячатку на дыпломе каралевіча Караля на Курляндыю. Пад час працы Трыбунала ВКЛ 1759 пачалося ахаладжванне адносін з Радзівіламі, і перад выбарамі на наступны Трыбунал ВКЛ Міхал Антоні беспаспяхова спрабаваў наладзіць супрацоўніцтва з Чартарыйскімі. У выніку ў час выбараў на Трыбунал ВКЛ 1760 Міхал Антоні выступаў самастойна і не мог уплываць на размеркаванне трыбунальскіх пасад.

*Літ.*: K a r k u c i ń s k a W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa. Warszawa, 2000; М а ц у к А. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці ВКЛ у 20-ых—пачатку 30-ых гг. XVIII ст. // Вестник Полоцкого гос. ун-та. Гуманитарные науки. 2005. № 1; Я г о ж. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» у 1730—1740-я гады // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 3.

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Юзаф Станіслаў (16.1.1708, Гданьск—12.1.1754), дзяржаўны і рэлігійны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Да 1727 вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Браневе, пасля ў семінарыі Св. Крыжа ў Варшаве. У час бескаралеўя 1733 разам з большасцю родзічаў выступіў на баку Станіслава Ляшчынскага. Дзякуючы пратэкцыі канцлера ВКЛ Яна Фрэдэрыка Сапегі пасля пераходу на бок Аўгуста III у 1736 стаў віленскім кад'ютарам (намеснікам біскупа). У 1738 імкнуўся дасягнуць прыняцця на сойміках пастаноў супраць заняцця пасадаў у ВКЛ некатолікамі і чужаземцамі. У гэты час зблізіўся з Радзівіламі, аднак у 1740 з-за спадчынных спрэчак разышоўся з імі, кампраміс быў дасягнуты ў 1745. У 1747—48 у сувязі са спрэчкай з Масальскімі рабіў новыя спробы ўсталяваць саюз Сапегаў з Радзівіламі. У гэты час яго паліт. актыўнасць знізілася, і ён у асноўным займаўся дапамогай сваім пляменнікам Аляксандру і Міхалу Ксаверыю, а таксама кантраляваў выбары на сойміках у Вільні. Прымаў актыўны ўдзел у рэліг. жыцці ВКЛ. Выступаў супраць умяшання Расіі на баку праваслаўных. Пастараўся, каб скліканая па просьбе Расіі камісія па разглядзе скарг праваслаўных і куды ён уваходзіў сам, бяздзейнічала. Насуперак Чартарыйскім дамогся зацвярджэння абранага уніяцкага мітрапаліта Фларыяна Грабніцкага. З 1738 збіраў уласную бібліятэку. З 1743 перапісваў кнігі, якія пазычаў у вядомых бібліяфілаў Яна Фрэдэрыка Сапегі, Юзафа Андрэя і Андрэя Станіслава Залускіх. Даследаваў і ўпарадкоўваў архівы Сапегаў. У 1740 разам з братам Міхалам Антоніем дамогся выдалення з падрыхтаванага да друку *Валюміна легум* (т. 6) антысапегаўскай «Генеральнай пастановы станаў ВКЛ пад Алькенікамі ўхваленай» 1700.

*Літ.*: M a t u s z e w i c z M. Diariusz życia mego. T. 1—2. Warszawa, 1986; K a r k u c i ń s k a W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa. Warszawa, 2000; М а ц у к А. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» у 1730—1740-я гады // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 3.

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Юзаф Францішак (1679—11.4.1744), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Быў паслом з берасцейскага сойміка на элекцыйны сойм 1697. Пасля вучыўся ва ун-це г. Грац (Аўстрыя), наведаў Баварыю, Францыю, Галандыю, Іспанію, Турцыю. У першыя гады *Паўночнай вайны 1700—21* прытрымліваўся нейтралітэта, але ў 1706 канчаткова падтрымаў Станіслава Ляшчынскага, потым Аўгуста II, які ў 1713 надаў яму ўрад надворнага падскарбія ВКЛ. На працягу свайго жыцця беспаспяхова імкнуўся вярнуць пад уладу надворнага падскарбія *эканоміі*. Адзін з актыўных дзеячаў *Віленскай канфедэрацыі 1716*, быў адным з 3 паслоў ад канфедэратаў з-пад Ленчнай да Аўгуста II, выбраны кансіліярыюшам ад шляхты Берасцейскага ваяв. У 1720—пач. 1730-х г. у шэрагах антыкаралеўскай апазіцыі ВКЛ. У час бескаралеўя ўцягнуты ў канфлікт са стражнікам ВКЛ А.Пацеем наконт пасады палкоўніка Берасцейскага пав. Гэта прывяло да раздваення сойміка, на адным з іх Юзаф Францішак і быў абраны павятовым палкоўнікам. Выказаўся за кандыдатуру на трон Станіслава Ляшчынскага і беспаспяхова прэтэндаваў на пасаду рэгіментара. Вызначаны Ляшчынскім адным з пленіпатэнтаў для стварэння Генеральнай канфедэрацыі ў Дзікаве. У 1735 удзельнічаў у акцыях атрадаў канфедэратаў на Падоллі, быў пасрэднікам у перапісцы Ляшчынскага з крымскім ханам Каплан-Гірэем. Пасля прызнаў каралём Аўгуста III, імкнуўся атрымаць сенатарскую пасаду. У апошнія гады жыцця зблізіўся з Радзівіламі, выступаў за прымірэнне з імі іншых Сапегаў.

*Літ.*: Герье В. Борьба за польский престол в 1733 году. М., 1862; Dygdała J. Konfederacja krakowska Teodora Lubomirskiego z początków bezkrólewia 1733 roku a polityka Austrii wobec Rzeczypospolitej // Trudne stulecie. Warszawa, 1994; Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa. Warszawa, 2000.

***Андрэй Мацук.***



Я.К.**Сапега**.

**Сапега** Ян Казімір (?—22.2.1730), дзяржаўны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расіі. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Варшаве (1685) і Браневе (да 1692), падарожнічаў па Галандыі, Англіі, Францыі. Вярнуўся ў 1697 і быў абраны паслом ад Берасцейскага ваяв. на элекцыйны сойм. Не прымаў удзелу ў вайне Сапегаў з «рэспубліканцамі» і таму пасля Алькеніцкай бітвы 1700 не падпаў пад антысапегаўскія пастановы, але быў вымушаны даць прысягу аб непадтрымцы сваіх сваякоў. У 1702 перайшоў на бок шведаў. Стаў адным з ініцыятараў стварэння прашведскай канфедэрацыі ў Вял. Польшчы (9.7.1703), Варшаўскай канфедэрацыі, дэтранізацыі Аўгуста II і абвяшчэння бескаралеўя. У 1708 прызначаны Станіславам Ляшчынскім вял. гетманам ВКЛ. Атрымаў перамогі над прыхільнікамі Аўгуста II пад Пултускам 25.11.1704, Алітай у 1706, Ляхавічамі 12.4.1709 і рас. войскамі пад Тыкоцінам у 1706. Пасля паражэння шведскіх войск у Палтаўскай бітве 1709 адмовіўся са сваімі войскамі далучыцца да Станіслава Ляшчынскага, а 11.11.1709 разам з войскам склаў зброю. Цар Пётр I не меў войск для барацьбы з атрадамі С., таму яшчэ 28.9.1709 пагадзіўся на амністыю для яго. С. быў вымушаны адмовіцца ад пасады вял. гетмана ВКЛ і пасля імкнуўся вярнуць яе сабе. У канцы 1709 пачаў агітацыю супраць Аўгуста II. У 1711—12 некалькі разоў беспаспяхова намагаўся пачаць збройнае змаганне з прыхільнікамі Аўгуста II. Быў вымушаны пакінуць Рэч Паспалітую і накіраваўся да Карла XII у Бендэры. Там пасварыўся з інш. прыхільнікамі Ляшчынскага, у 1713 атрымаў амністыю ад Аўгуста II і вярнуўся. У 1714 прапанаваў Аўгусту II праект сумеснага выступлення Рэчы Паспалітай, Швецыі і Турцыі супраць Расіі для атрымання Інфлянтаў. Быў у вострым канфлікце з кіраўнікамі *Тарнагродскай канфедэрацыі*, але, дзякуючы падтрымцы інш. Сапегаў, прыхільна быў прыняты кіраўніком *Віленскай канфедэрацыі 1716* К.Сулістроўскім. Быў рэкамендаваны канфедэратамі ВКЛ на пасаду вял. гетмана ВКЛ, і толькі падтрымка Пятром I вял. гетмана Л.Поцея перашкодзіла С. заняць яе. У 1719 устанавіў кантакты з рас. паслом Р.Даўгарукім, накіраваныя супраць Аўгуста II. У 1720-х г. у шэрагах антыкаралеўскай апазіцыі ў ВКЛ. Устанавіў кантакты з А.Д.*Меншыкавым*. У 1726 паехаў у Пецярбург з мэтай заручын свайго сына Пятра з дачкой Меншыкава Марыяй. У Пецярбургу выступаў ад імя антыкаралеўскай апазіцыі ў ВКЛ, і таму быў прыхільна прыняты рас. ўладамі. Беспаспяхова дапамагаў Меншыкаву стаць курляндскім герцагам. Абяцаў французскаму паслу Кампрэдону падтрымаць кандыдатуру Ляшчынскага ў выпадку бескаралеўя. 23.3.1726 С. атрымаў чын рас. генерал-фельдмаршала, а 24.3.1726 адбыліся заручыны Пятра Сапегі і Марыі Меншыкавай. Пасля, нягледзячы на часовы ад'езд С. і разрыў заручын Пятра Сапегі з Марыяй Меншыкавай, пазіцыі Сапегаў у Пецярбургу ўзмацніліся. Пётр Сапега стаў фаварытам Кацярыны I і быў заручаны з яе крэўнай Соф'яй Скаўронскай. З'явіліся чуткі, што Кацярына I у выпадку смерці Аўгуста II жадае зрабіць С. каралём. Пры Пятры II С. прымаў удзел у пасяджэннях Вышэйшага Тайнага Савета, Сената, Сінода. У 1727 прызначаны генерал-губернатарам Пецярбурга, нягледзячы на немагчымасць заняцця гэтай пасады чужаземцам. У 1728 выехаў у Рэч Паспалітую для пільнавання рас. інтарэсаў. У 1729 рас. ўрад рабіў спробы адклікаць С., бо ў сваёй дзейнасці ён кіраваўся ў першую чаргу інтарэсамі Ляшчынскага, а не Расіі. С. не паслухаўся і паехаў на сойм 1729 у Гародні, дзе навязаў супрацоўніцтва з французскім паслом А.Ф.Манці, якому абяцаў, што Расія падтрымае Ляшчынскага. З узыходжаннем на рас. прастол Ганны Іаанаўны С. зрабіў спробу шляхам подкупу А.Астэрмана вярнуць свой уплыў на пецярбургскі двор, але неўзабаве памёр.

*Літ.*: Rostworowski E. O polską koronę: Polityka Francji w latach 1725—

1733. Wrocław; Kraków, 1958; Грицкевич В. В летопись Петербурга // Нева. 1983. № 7; Kriegseisen W. Diariusz petersburskiej podróży Jana i Piotra Sapiehów z 1726 roku // Wiek Oświecenia. 1993. № 9; Беспятых Ю.Н. Иностранные источники по истории России первой четверти XVIII века. СПб., 1998; Мацук А. Роль Яна Сапеги в общественно-политических процессах в Речи Посполитой, Великого княжества Литовского и Речи Посполитой в первой половине XVIII века. // VICTORIA. GLORIA. FAMA. СПб., 2003. Т. 3.

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Ян Фрыдэрык (18.10.1680, в. Дабрацічы Берасцейскага пав.— 6.7.1751), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Сапегаў*. Менскі кашталян у 1711—12, троцкі кашталян з 1716, канцлер ВКЛ з 1735. З 1691 вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Берасці, з 1694 у Любліне, з 1695 у Варшаве. У 1697 стаў берасцейскім старастам. У 1700—02 падарожнічаў за мяжой, наведаў Прусію, Саксонію, Аўстрыю, Францыю, Галандыю і Англію. Спачатку быў сярод прыхільнікаў Аўгуста II, але ўжо ў 1706 перайшоў на бок Станіслава Ляшчынскага. Пасля бітвы пад Палтавай 1709 перайшоў на бок Аўгуста II. Не прыняў удзелу ў *Віленскай канфедэрацыі 1716*. У 1717 актыўна выступаў супраць прысутнасці рас. войск у Рэчы Паспалітай. У 1719—20 выступаў супраць далучэння Рэчы Паспалітай да Венскага саюза. У 1720—пач. 1730-х г. быў у шэрагах антыкаралеўскай апазіцыі. Прэтэндаваў на ўрад падканцлера ВКЛ. У час бескаралеўя 1733 стаяў на баку Станіслава Ляшчынскага. На падвойным перадэлекцыйным сойміку Берасцейскага ваяв. 1733 падтрымаў стражніка ВКЛ А.Пацея супраць надворнага падскарбія ВКЛ Ю.Ф.Сапегі. Перайшоў у 1735 на бок Аўгуста III за прадастаўлены ўрад канцлера ВКЛ. Клапаціўся аб пасадах для магнацкіх родаў Радзівілаў (з якімі быў звязаны праз сваю жонку Канстанцыю з Радзівілаў) і Сапегаў. Апошнім аказваў дапамогу ў асноўным праз віленскага каад'ютара Ю.С.Сапегу. На соймах выступаў супраць умяшання Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай праз падтрымку праваслаўных і за захаванне Рэччу Паспалітай нейтралітэту на міжнар. арэне. Сабраў вял. бібліятэку ў Кодані, якая ў 1744 складалася з 3500 пазіцый. Рэалізаваў праект



Я.Ф.**Сапега**.

па стварэнні галерэі партрэтаў сваіх продкаў (каля 70 карцін). Быў аўтарам шматлікіх публіцыстычных і гіст. твораў.

*Літ.*: Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1—2. Warszawa, 1986; Tłomacki A. Sapiehowie. Warszawa, 1996; Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa. Warszawa, 2000; Palkij H. Sejmy 1736 i 1738 roku: U początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej. Kraków, 2000.

***Андрэй Мацук.***

**Сапегі**, магнацкі род герба «Ліс», прадстаўнікі якога ў 15—18 ст. займалі ў ВКЛ вышэйшыя дзяржаўныя, адміністрацыйныя і вайсковыя пасады; буйныя землеўладальнікі. Лічыўся другім па значэнні (пасля Радзівілаў) магнацкім родам ВКЛ. Беларусы па паходжанні, спачатку былі праваслаўнымі, у 2-й пал. 16 ст. частка з іх далучылася да пратэстанцтва, аднак ужо ў канцы 16 ст. С. прынялі каталіцтва. У 17—18 ст. складаліся радаводы С., дзе сцвярджалася пра іх нібыта княжацкае паходжанне ад *Нарымонта*, сына Гедзіміна. У 18—19 ст. некаторыя даследчыкі выводзілі С. ад троцкага кашталяна Сунігайлы, нібыта праўнука Нарымонта. А.Банецкі, Ю.Вольф і У.Сямковіч у сваіх даследаваннях даказалі, што С. паходзяць ад Сямёна Сапігі (Сапегі), велікакняжацкага пісара ў 1440-х г. з полацкіх баяр. Першапачаткова вял. маёнткі С. знаходзіліся ў Смаленскай зямлі: Ельня, Гарадзішча, Апакоў. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* С. страцілі Гарадзішча і Апакоў, якія адышлі да Масквы, а ў выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* страцілі і Ельню. С. набылі новыя маёнткі ў Беларусі. У 16 ст. С. ўвайшлі ў шэрагі магнатаў. У 16—18 ст. прадстаўнікі роду займалі пасады ваявод і кашталянаў, гетманаў вялікіх і польных, канцлераў і падканцлераў, маршалкаў вялікіх і дворных і інш. Яны выбіраліся пасламі на соймы, прызначаліся старастамі. У родапачынальніка Сямёна былі 4 сыны, з якіх Багдан і Іван сталі пачынальнікамі 2 гал. ліній роду — чарэйска-ружанскай і коданскай (дадатковая назва гэтай лініі ў некаторых даследчыкаў «северская» з'яўляецца памылковай). Багдан (да 1450—пасля 1512) у выніку шлюбу з князёўнай Фядорай Друцкай-Саколінскай атрымаў Чарэю і інш. маёнткі — ядро ўладанняў С. у Полацкім і Віцебскім ваяв. Іван (каля 1450—1517) атрымаў за службу маёнткі на Браслаўшчыне (Друю, Іказнь, Пагост), Кодань каля Берасця і інш.

У 2-й пал. 16—17 ст. С. валодалі Чарэяй, Свіслаччу, Асвеяй, Дрысвятамі, Друяй, Коханавам, Ружанамі, Бешанковічамі, Лепелем, Сянном, Зэльвай,




Герб **Сапегаў** з кнігі «Новы Запавет». Вільня. 1623.



Партрэтная галерэя **Сапегаў** у Коданскім касцёле. Каля 1720. Літаграфія 19 ст.

Дзятлавам, Бялынічамі, Дуброўнам, Старым і Новым Быхавам, Горамі, Горкамі, Цяцерынам, Круглым, Талачыном, Лунінам, Гальшанамі, Станькавам, Ляхавічамі, Цімкавічамі, Косавам, Смілавічамі, Дукорай. Яны таксама рэгулярна атрымлівалі ў пажыццёвае карыстанне дзярж. маёнткі (старасты). У іх распараджэнні былі свае крэпасці, гарнізоны, ваеннаслужылыя людзі, у т.л. шляхта. Старэйшая, чарэйска-ружанская лінія роду займала больш трывалыя пазіцыі ў дзярж. колах, малодшая мела меншае паліт. значэнне. У апошняй чвэрці 17 ст. род яшчэ больш узвысіўся. Кароль Ян III Сабескі, каб супрацьдзейнічаць магутнаму роду Пацаў, даваў вышэйшыя дзярж. пасады С., якія, умацаваўшы сваё становішча, выступілі супраць караля. У гэты час пашырылася незадаволенасць усеўладдзем і злоўжываннямі С. У 1696 супраць іх пачалася адкрытая барацьба большай часткі шляхты ВКЛ. На канфедэрацыйным сойме 1696 ёй удалося правесці канчатковае ўраўнаванне яе правоў з правамі польскай шляхты («каэквацыя»), у т.л. ў кантролі над дзейнасцю вышэйшых службовых асоб. І хоць сойм 1697 пацвердзіў «каэквацыю» і прымірыў абодва бакі, канфлікт паміж С. і шляхтай працягваўся і перарос у *феадальную вайну 1697—1702*. 18.11.1700 пад Алькенікамі (на Пд ад Вільні) адбылася рашучая бітва паміж атрадамі С. і шляхты. Войска С. было разбіта, самі яны пазбаўлены пасад, некаторыя з іх пакінулі краіну. У час *Паўночнай вайны 1700—21* С. сталі на бок шведскага караля Карла XII і падтрымалі шведскага стаўленіка караля Станіслава Ляшчынскага. Шляхта працягвала ваяваць супраць С. і заключыла з царом Пятром I дагавор аб рас. ваеннай і грашовай дапамозе (гл. *Сандамірская канфедэрацыя*). Тады С. пайшлі нават на стварэнне казацка-сялянскіх атрадаў на чале з Юрэвічам, Більдзюкевічам і Хмарай, якія дзейнічалі супраць шляхты ва ўсх. частцы Беларусі (пад Дуброўнам, Галоўчынам, Быхавам). У 1702 гэтыя атрады былі разбіты. У 1704 рас. армія ачысціла Беларусь ад шведскіх і сапегаўскіх атрадаў. Пасля Паўн. вайны паліт. уплыў С. паменшаў, аднак яны па-ранейшаму атрымлівалі гал. пасады ў цэнтр. і мясц. адміністрацыі ВКЛ. 14.9.1700 германскі імператар Леапольд I, каб узмацніць свой уплыў у Рэчы Паспалітай, надаў прадстаўнікам чарэйска-ружанскай лініі роду С. тытул князёў Свяшчэннай Рымскай імперыі. Памылковымі з'яўляюцца звесткі пра наданне Івану Сямёнавічу С. графскага тытула ад германскага імператара Максіміляна II 6.1.1572 і пацвярджэнне гэтага тытула Жыгімонтам II Аўгустам 4.5.1572. Гэтыя фальсіфікаваныя дакументы былі ўпісаны ў Метрыку ВКЛ у 1744 канцлерам Янам Фрыдэрыкам С. і такім чынам сталі дзярж. дакументамі, на якія потым можна было спасылацца. У 1768 па патрабаванні С. сойм Рэчы Паспалітай на падставе гэтых запісаў прызнаў усіх С. князямі, нашчадкамі Нарымонта Гедзімінавіча. Княжацкі тытул С. быў пацверджаны ў Каралеўстве Польскім у 1822, у Аўстрыі — у 1840, у Расіі — у 1874. С. збіралі б-кі (гл. *Бібліятэкі Сапегаў*), архівы (гл. *Архівы Сапегаў*), калекцыі твораў мастацтва, трымалі тэатры. За ўдзел некаторых прадстаўнікоў роду С. у паўстанні 1830—31 іх маёнткі ў Беларусі былі канфіскаваны царскім урадам. У 1915—18 С. прэтэндавалі на трон ВКЛ, якое меркавалася адрадзіць пасля магчымай перамогі Германіі ў 1-й сусв. вайне; С. мелі кантакты з нац. арг-цыямі на акупіраванай ням. войскамі тэр. Літвы і Беларусі, у т.л. з беларускімі. У 1918—39 у Польшчы С. — землеўладальнікі, дыпламаты, службоўцы. Пасля 2-й сусв. вайны ў эміграцыі.

Найб. вядомыя:

Багдан Сямёнавіч (да 1450—пасля 1512), старэйшы сын Сямёна, заснавальнік чарэйска-ружанскай лініі роду. У 1471—88 пісар гаспадарскі (велікакняжацкі) Казіміра IV Ягелончыка. У 1475 ажаніўся з князёўнай Фядорай Друцкай-Саколінскай і атрымаў у пасаг маёнткі Чарэю, Белую

(цяпер Лепель), Тухачова, Лемніцу, Сярэю, Грэзань. У абмене з братам Іванам атрымаў Ельню. У час панавання Казіміра купіў на Віцебшчыне 11 маёнткаў, чым стварыў ядро сапегаўскіх латыфундый у Віцебскім пав. У 1494—1500 намеснік і дзяржаўца мцэнскі і любецкі, пасля акольнічы смаленскі, з 1503 намеснік высакадворскі. У 1504 і 1507 у складзе пасольстваў у Маскву, дзе ў 1507—08 быў зняволены як заложнік за сям'ю М.Глінскага.

**Іван Сямёнавіч** (Івашка Сапежыч; каля 1450—1517), 2-і сын Сямёна, пачынальнік коданскай лініі роду. Пісар гаспадарскі Казіміра IV Ягелончыка з 1488. Пасол у Маскву ў 1497, 1498, 1499, у Рым у 1501, дзе дамогся ад папы зацвярджэння мітрапаліта Іосіфа І Балгарынавіча, там далучыўся да Фларэнційскай царк. уніі. З 1501 канцлер вял. княгіні Алены Іванаўны. У 1502 пасол да магістра Лівонскага ордэна, у 1503 — у Маскву, заключыў 6-гадовае перамір'е, якое скончыла вайну Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1500—03. Маршалак гаспадарскі з 1504. Пасля абрання на трон Жыгімонта І Старога (1506) тытулаваўся найвышэйшым сакратаром ВКЛ. У 1505 зноў пасол у Маскву, аднак прадоўжыць тэрмін перамір'я не ўдалося. Намеснік віцебскі ў 1508—14 (з 1511 ваявода). Пасол у Маскву ў 1508, заключыў мір, якім скончана вайна Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1507—08. У 1512 вёў перагаворы ў Польшчы з кароннаю радаю аб дапамозе ў вайне з Маскоўскай дзяржавай 1512—22. Ваявода падляшскі з 1514. Заклаў асновы латыфундыі коданскай лініі роду. У 1504 заснаваў мяст. Іказнь і Іказненскі замак, збудаваў мяст. Кодань з замкам. У выніку войнаў страціў смаленскія маёнткі, але атрымаў ад вял. князёў новыя — на Браслаўшчыне, Падляшшы і Берасцейшчыне.

**Іван Багданавіч** (каля 1480—1546), сын Багдана Сямёнавіча. Пісар гаспадарскі ў 1507—16, маршалак гаспадарскі ў 1515—41, ваявода віцебскі ў 1520—41 і падляшскі з 1529; староста дарагічынскі ў 1529—41 і з 1545. Пасол у Маскву ў 1508, 1531—32, 1536, у Турцыю ў 1534. Удзельнічаў у кампаніі 1514 пад кіраўніцтвам гетмана К.Астрожскага. Камандаваў часткай войска ў бітве на Бярэзіне 27.8.1514 і ў Аршанскай бітве 1514.

**Павел Іванавіч** (каля 1490—1579), сын Івана Сямёнавіча. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Дзяржаўца браслаўскі ў 1517—47, маршалак гаспадарскі ў 1519—57, ваявода падляшскі ў 1556—58 і новагародскі з 1558. Удзельнічаў у вайне з Маскоўскай дзяржавай у 1534—35, Інфлянцкай вайне 1558—82 у 1561. Быў праціўнікам Люблінскай уніі 1569, але акт уніі падпісаў.

**Мікалай Паўлавіч** (каля 1525—1.11.1599), сын Паўла Іванавіча. Вучыўся ў Лейпцыгскім і Каралявецкім ун-тах. Як ротмістр коннай харугвы ўдзельнічаў у Інфлянцкай вайне 1558—82, бітве на Уле 1564. Маршалак гаспадарскі ў 1566—76, ваявода менскі ў 1576—88, берасцейскі ў 1588 і віцебскі з 1588. Падпісаў акт Люблінскай уніі 1569. Валодаў Гальшанамі, Коднем, маёнткамі ў Берасцейскім, Лідскім, Ашмянскім пав., на Валыні, трымаў Рэчыцкае (1570—73) і Аршанскае (з 1588) староствы, Суражскую і Веліжскую дзяржавы.

**Багдан Паўлавіч** (каля 1530— 1-я пал. 1593), сын Паўла Іванавіча. Падкаморы бельскі ў 1566—69, староста гомельскі ў 1572—82, кашталян берасцейскі ў 1579—85 і смаленскі ў 1585—88, ваявода менскі з 1588. Пасля смерці караля Стафана Баторыя (1586) быў прыхільнікам абрання на каралеўскі трон маскоўскага цара Фёдара Іванавіча. Быў членам правасл. брацтваў у Вільні і Львове. Выступаў супраць ганенняў на кальвіністаў. Валодаў Гальшанамі, Боцькамі, Святошынам, Гердышкамі, Аснежыцамі, заснаваў мяст. Багданаў.

**Леў Іванавіч** (4.4.1557—7.7.1633), канцлер ВКЛ, гл. *Сапега* Л.І.

**Андрэй Іванавіч** (каля 1565—1611), малодшы брат канцлера Л.І.Сапегі. Староста аршанскі з 1588, кашталян віцебскі ў 1600—05, ваявода мсціслаўскі з 1605. У 1596 удзельнічаў у падаўленні паўстання С.Наліўвайкі, у вайне з Расіяй 1609—18.

**Андрэй Паўлавіч** (каля 1560—да 11.10.1621), сын Паўла Іванавіча. У 1590-я г. вучыўся ў Падуанскім ун-це. Ротмістрам удзельнічаў у Інфлянцкай вайне 1558—82, 21.10. 1578 разграміў рас. атрады, што аблажылі Вендэн, захапіў у палон ваявод П.Тацева і В.Варанцова. Падчашы ВКЛ у 1588—92, кашталян менскі ў 1592—97, ваявода полацкі ў 1597—1613 (адмовіўся ад пасады з-за канфлікту з палачанамі) і смаленскі з 1621. Валодаў Вішніцамі, Сапежышкамі, маёнткамі на Падляшшы.

**Павел Стафан** (1565—19.7.1635), сын Багдана Паўлавіча. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Выбіраўся паслом на соймы.Канюшы ВКЛ у 1593—1623, падканцлер ВКЛ з 1623.



Да арт. **Сапегі**. П.С.Сапега. 1624.

**Ян Пётр** (1569—15.10.1611), сын Паўла. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, Падуанскім ун-це. Удзельнічаў у баях з крымскімі татарамі. У час вайны са Швецыяй 1600—29 камандаваў гусарскай і казацкай харугвамі, 7.1.1601 удзельнічаў у пераможнай бітве пад Вендэнам, 29.6.1601—пад Какенгаўзенам, 5.3.1603—пад Ракверэ, 13.4. 1603—ва ўзяцці Дорпата; у Кірхгольмскай бітве 1605 камандаваў правым крылом. У час рокашу М.Зэбжыдоўскага прывёў да караля перад бітвай пад Гузавам 6.7.1607 гусарскую і казацкую харугвы. У жн. 1607 са згоды канцлера Л.І.Сапегі прапанаваў Ілжэдзмітрыю II сваю дапамогу ў авалоданні маскоўскім тронам. У ліп. 1608 з войскам у 1720 жаўнераў перайшоў маскоўскую мяжу. 25.8.1608 заняў Вязьму, потым спаткаў Марыну Мнішак з яе бацькам (гл. ў арт. *Мнішкі*) і прывёз іх у Тушына да Лжэдзмітрыя II. 2.10.1608 разбіў войска І.Шуйскага пад Рахманавам, аблажыў Троіца-Сергіеў манастыр, падпарадкаваў Замаскварэцкі край.



Да арт. **Сапегі**. М.Сапега.

У лют. 1610 заняў Дзмітраў. 1.3.1610 пацярпеў паражэнне ад М.В.Скопіна-Шуйскага, у чэрв. 1610 далучыўся да Лжэдзмітрыя II у Калузе. 25.6.1610 абвешчаны сваімі жаўнерамі гетманам. У ліп. 1610 рушыў на Маскву. 27.7.1610, калі быў скінуты з трона цар Васіль Шуйскі і ўстанавілася сямібаяршчына, прыехаў у Маскву і вёў перагаворы пра перадачу ўлады Лжэдзмітрыю II (у войску Яна Пятра былі настроі абвясціць царом свайго гетмана). У ліп. 1611 заняў Аляксандраву Слабаду, аблажыў Пераяслаў-Залескі, 15.8.1611 штурмам узяў Белы Горад у Маскве. Памёр ад хваробы ў Крамлі, пахаваны ў Лепунах (Гарадзенскі пав.). Валодаў Вяйсеямі ў Гарадзенскім пав., з 1600 трымаў Усвяцкае староства.

Мікалай (каля 1581—14.3.1644), сын Мікалая Паўлавіча. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу (Браневе), ун-тах Вены, Трыра, Майнца, Парыжа. Выбіраўся пaслом на соймы, дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Каралеўскі сакратар, харужы ВКЛ у 1627—38, ваявода менскі ў 1638 і берасцейскі ў 1638—42, кашталян віленскі з 1642. Валодаў Коднем (збудаваў там касцёл і шпіталь), Вішніцай, Заазер'ем, Мсціжом.

Аляксандр Дажбог (Багдан, Тэадат; 1585—студз. 1635), сын Рыгора. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу (Браневе). Падкаморы віцебскі з 1606, староста аршанскі з 1610, кашталян віцебскі ў 1613—15 (адмовіўся ад пасады), староста прапойскі і чачэрскі з 1622, крычаўскі (да 1631), чашнік ВКЛ у 1631—32. Удзельнічаў у баях за Смаленск у час вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18, у вайне з туркамі ў 1621, са шведамі ў 1627. Заснаваў касцёл і кляштар дамініканцаў у Астроўне (Віцебскае ваяв.).

Ян Станіслаў (25.10.1589, г. Маладзечна—10.4.1635), сын канцлера Л.І.Сапегі. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу (Браневе), Вюрцбургскім, Падуанскім, Балонскім ун-тах. Пасол на соймы. Староста слонімскі з 1605, падстолі ВКЛ у 1611—17, маршалак дворны ў 1617—21, маршалак вялікі з 1621.

Анрэй Станіслаў (1592—25.3.1646), сын Яна Пятра. Староста ўсвяцкі ў 1612—23 і ваўкавыскі з 1645, кашталян троцкі ў 1641—44 і віленскі з 1644. Пасол на соймы, дэпутат Трыбунала ВКЛ. Удзельнічаў у войнах з туркамі (1621), шведамі (1622—28).

Казімір Леў (15.7.1609, г. Вільня—19.1.1656), сын канцлера Л.І.Сапегі. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, езуіцкім калегіуме ў Мюнхене, Інгальштацкім, Лёвенскім, Балонскім ун-тах. Выбіраўся пaслом на соймы, дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Каралеўскі сакратар і вял. пісар ВКЛ у 1631—37, маршалак дворны ў 1637—45, падканцлер з 1645. Адміністратар Берасцейскай эканоміі, староста рагачоўскі. Удзельнічаў у барацьбе з казакамі на Украіне ў 1648—53, у вайне з Расіяй 1654—67 выставіў полк. Валодаў латыфундыяй з цэнтрам у Ружанах, дамогся ад караля прывілеяў на магдэбургскае права і кірмашы для сваіх мяст. Бялынічы, Талачын, Бешанковічы, Ружаны.

Павел Ян (1609—30.12.1665), сын Яна Пятра. Як ротмістр гусарскай харугвы ўдзельнічаў у вайне з Расіяй 1632—34. Абозны вялікі ВКЛ у 1638—45, падстолі ВКЛ у 1645—46, ваявода віцебскі ў 1646—56, ваявода віленскі і гетман вялікі з 1656. Выбіраўся пaслом на соймы, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1649. У час вайны з Расіяй 1654—67 23.11.1655 недалёка ад Берасця на р. Лясная разбіў рас. войскі на чале з С.А.Урусавым і Ю.Н.Барацінскім. На пачатку 1656 ачысціў Падляшша ад шведскіх войск і іх саюзнікаў. Разам з С.Чарнецкім атрымаў перамогу ў Палонкаўскай бітве 1660. 8.10.1660 нанёс паражэнне рас. ваяводам у бітве над р. Бася каля Чавусаў. Валодаў Ружанамі, Косавам, Ляхавічамі, Старым Быхавам, Чарэяй, трымаў Рослаўскае (з 1640) і Здзітаўскае (з 1645) староствы.

Аляксандр Казімір (13.5.1624, в. Мацееў на Валыні—22.5.1671), сын Фрыдэрыка. Вучыўся ў Любліне, Вільні, Кракаве, Падуі, Балонні, Рыме. Каралеўскі сакратар з 1647, канонік віленскі з 1649, прэпазіт з 1650, канонік варшаўскі з 1651, суфраган віленскі з 1655, рэферэндар духоўны ВКЛ у 1657—59, біскуп жамойцкі ў 1659—67 і віленскі з 1667.

Казімір Ян Павел (1642—13.3.1720), сын Паўла Яна. Вучыўся ва ун-тах Граца і Лёвена. З 1664 выбіраўся пaслом на соймы. Чашнік ВКЛ у 1659—61, падстолі ў 1661—63, падскарбі дворны ў 1663—70, ваявода полацкі ў 1670—81, гетман польны ў 1681—83, гетман вялікі ў 1683—1703 і 1705—08, ваявода віленскі ў 1682—1703 і з 1705, староста берасцейскі. Падтрымліваў караля Міхала Вішнявецкага, стаў лідэрам апазіцыі да ўсемагутных у 1670-я г. Пацаў. Удзельнічаў у паходах супраць туркаў у 1673 (камандаваў 3 харугвамі конніцы і 1 пяхоты, набранымі за кошт Сапегаў), 1674, 1683 (камандаваў 10-тысячным войскам, якое дзейнічала ў Славакіі), 1689, 1691, 1694 (нанёс паражэнне каля Днястра). Устанавіў рэжым сваёй і клана Сапегаў улады ў ВКЛ. У Паўн. вайне 1700—21 стаў на бок шведаў, за што ў 1703 пазбаўлены пасад. Шведскі стаўленік на троне Рэчы Паспалітай Станіслаў Ляшчынскі аднавіў яго на пасадах ваяводы віленскага і гетмана вялікага. У 1706 і 1708 разам з арміяй шведаў ваяваў у Беларусі. Валодаў Друяй, Сапежынам, Іказню, Асвеяй, Старым і Новым Быхавам, Лейпунамі, Іллёй, Заслаўем, Дуброўнам, Іўем, Ружанамі, Воўчынам.

Бенядзікт Павел (каля 1643—12.8.1707), сын Паўла Яна. З 1657 вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Грацы (Аўстрыя), з 1661 — у Лёвенскім ун-це (Іспанскія Нідэрланды), у 1663—64 падарожнічаў па Зах. Еўропе. З 1664 выбіраўся паслом на соймы. Падстолі ВКЛ у 1663—65, стольнік у 1665—70, крайчы ў 1670, падскарбі дворны ў 1670—76, падскарбі вялікі з 1676, староста слонімскі. На элекцыйным сойме 1674 быў маршалкам і садзейнічаў абранню на трон Яна III Сабескага, што спрыяла ўстанаўленню гегемоніі С. у ВКЛ. Намагаўся сілай ліквідаваць рух сваіх праціўнікаў («рэспубліканцаў»). 15.10.1700 яго войска напала на атрад шляхты пад Ашмянамі і разбіла яго. У Алькеніцкай бітве 18.11.1700 яго армія разбіта, паранены, ён уцёк у Курляндыю. У сак. 1702 перайшоў на бок шведскага караля Карла XII і ўдзельнічаў у яго кампаніі ў Польшчы. На сойме 1703 пазбаўлены сваіх пасад і тытулаў. Удзельнічаў у Варшаўскай канфедэрацыі 1704, якая дэтранізавала Аўгуста II. Новы кароль Станіслаў Ляшчынскі ў 1705 вярнуў яму пасаду падскарбія вялікага. Далучыўся да войска Ляшчынскага, з якім удзельнічаў у паходзе на Беларусь у 1706, потым у маршы шведскай арміі ў Саксонію.

Казімір Уладзіслаў (1650—29.4.1703), сын Яна Фрыдэрыка. Вучыўся ў езуіцкіх навучальных установах у Львове і Брунсбергу (Браневе). Удзельнічаў у войнах з туркамі ў 1673, 1676, 1683. Пасол на соймы. Падстолі ВКЛ у 1685—86, стольнік у 1686, падскарбі надворны ў 1686—89, троцкі кашталян у 1689—97 і ваявода з 1697.

Уладзіслаў Юзафат (5.11.1652, мяст. Косава—13.3.1733), сын Крыштофа Францішка. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Любліне і Брунсбергу (Браневе), ун-тах Прагі і Вены. Удзельнічаў у вайне 1673—74 супраць туркаў. Чашнік ВКЛ у 1681—84, крайчы ў 1684—99, ваявода менскі ў 1699—1709 і берасцейскі з 1709. Выбіраўся паслом на соймы, дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Быў прыхільнікам саюза з Расіяй у час Паўн. вайны 1700—21.

Ежы Станіслаў (1668—12.10.1732), сын Казіміра Яна Паўла. Вучыўся ў Вільні і Брунсбергу (Браневе). Удзельнічаў у войнах супраць туркаў. Выбіраўся паслом на соймы. Падстолі ВКЛ у 1686, стольнік ВКЛ у 1686—1703 і з 1709, ваявода мсціслаўскі ў 1732. У час Паўн. вайны 1700—21 ваяваў на баку шведаў і Станіслава Ляшчынскага, атрымаў ад яго пасаду ваяводы троцкага (1706—09). Пасля перайшоў да Аўгуста II.

Міхал Францішак (1670—19.11.1700), сын Казіміра Яна. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Варшаве і Брунсбергу (Браневе). У 1689 паступіў на службу ў аўстрыйскае войска, удзельнічаў у войнах супраць туркаў, генерал-маёр (1692). У 1696 вярнуўся у ВКЛ.Канюшы ВКЛ з 1690, адначасова генерал артылерыі з 1698, староста ашмянскі з 1699. У 1700 атрымаў ад аўстрыйскага імператара чын генерал-фельдмаршала-лейтэнанта і тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі. Камандаваў сапегаўскімі войскамі ў вайне супраць шляхты — «рэспубліканцаў». У Алькеніцкай бітве 18.11.1700 капітуляваў і быў засечаны шляхтай.

Міхал Юзаф (1670—6.3.1738), сын Бенядзікта Паўла. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Варшаве. Выбіраўся паслом на соймы. Чашнік ВКЛ у 1687—92, стражнік у 1692—98, пісар польны ў 1698—1730, ваявода падляшскі з 1728, генерал-маёр войска ВКЛ (1710), генерал-лейтэнант кавалерыі (1714), генерал-лейтэнант саксонскага войска (1733). Удзельнічаў у кампаніях супраць туркаў у 1695, 1698. У Паўн. вайне 1700—21 у 1702—09 падтрымліваў Карла XII і Станіслава Ляшчынскага, пасля Аўгуста II.

Аляксандр Павел (8.9.1672—4.1.1734), сын Казіміра Яна Паўла. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу (Браневе), у 1685—89 у Парыжы. Чашнік ВКЛ у 1692, маршалак дворны ў 1692—98, маршалак вялікі ў 1698—1703, 1705—08 і з 1713. Удзельнічаў у Алькеніцкай бітве 1700, у час Паўн. вайны 1700—21 стаў на бок шведаў, караля Станіслава Ляшчынскага, які таксама даў яму пасаду вял. маршалка (1705—08). Пасля аднаўлення ўлады Аўгуста II у 1709 у апазіцыі да яго. Валодаў Друяй, Іказнню, Сапежынам, Дуброўнам і інш.

Юзаф Францішак (1679—11.4.1744), сын Францішка Стафана; гл. *Сапега* Ю.Ф.



Да арт. **Сапегі**. К.Ю.Сапега. Мастак А.Мірыс.

Ежы Феліцыян (лют. 1680—3.9.1750), сын Францішка Стафана; гл. *Сапега* Е.Ф.

Ян Фрыдэрык (18.10.1680, в. Дабрацічы Берасцейскага пав.—6.7.1751), сын Казіміра Уладзіслава; гл. *Сапега* Я.Ф.

Ян Казімір (?—22.2.1730), сын Францішка Стафана; гл. *Сапега* Я.К.

Антоні Казімір (1689—16.5.1739), сын Ежы Станіслава; гл. *Сапега* А.К.

Казімір Леан (28.3.1697—30.5.1738), сын Аляксандра Паўла; гл. *Сапега* К.Л.

Ігнацы (?—15.4.1758), сын Уладзіслава Юзафата. Пасол на соймы, дэпутат Трыбунала ВКЛ. Чашнік ВКЛ у 1740—44, падскарбі надворны ў 1744—50, ваявода мсціслаўскі з 1750.

Кароль Юзаф (?—20.3.1768), сын Уладзіслава Юзафата. Выбіраўся паслом на соймы. Пісар польны ВКЛ у 1730—48, ваявода берасцейскі з 1748.

Пётр Павел (28.1.1701, г. Дрэздэн—23.1.1771), сын Яна Казіміра. У 1726 з дапамогай імператрыцы Кацярыны I быў заручаны з дачкой А.Д.Меншыкава Марыяй, стаў царскім камергерам; пазней ажаніўся з пляменніцай імператрыцы Соф'яй Скаўронскай (з былых прыгонных Сапегаў у Беларусі). У 1728 выехаў у Рэч Паспалітую, дзе стаў адным з найбагацейшых

магнатаў. Стольнік ВКЛ у 1732—44, ваявода смаленскі з 1744. Далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*, якой перадаў сваю надворную харугву. У 1770 выехаў у Славакію, дзе знаходзіўся эміграцыйны асяродак канфедэрацыі, там і памёр. Валодаў Ляхавічамі, Косавам, Старым Здзітавам, маёнткамі ў Польшчы, з 1730 трымаў Здзітаўскае староства.

Юзаф Станіслаў (16.1.1708, Гданьск—12.1.1754), сын Аляксандра Паўла; гл. *Сапега* Ю.С.

Міхал Антоні (10 або 12.3. 1711, г. Каралявец—11.10.1760), сын Аляксандра Паўла; гл. *Сапега* М.А.

Аляксандр Міхал (12.9. 1730—28.5.1793), сын Казіміра Львона. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Любартаве. З 1746 неаднаразова выбіраўся ў сойм. Абозны ВКЛ у 1748—50, генерал-маёр (1750), падскарбі дворны ў 1750—54, ваявода полацкі ў 1754—75, гетман польны ВКЛ у 1762—75, канцлер з 1775. Таемна падтрымліваў *Барскую канфедэрацыю*, хоць быў лаяльным да караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і рас. улад. Непрыхільна сустрэў *Канстытуцыю 3 мая 1791*. У 1792 па прапанове караля далучыўся да *Таргавіцкай канфедэрацыі* і быў абраны яе маршалкам у ВКЛ, пасля чаго засядаў з кіраўніцтвам канфедэрацыі ў Гародні. Збіраў кнігі, рукапісы. Валодаў Высокім, Друяй, Зэльвай, Старым і Новым Быхавам, Дзярэчынам, Лунінам і інш.

Казімір Нестар (14.2.1757, г.Брэст—25.5.1798), сын Яна. У 1767—72 вучыўся ў Рыцарскай школе ў Варшаве, пазней у ваеннай акадэміі ў Турыне, у Парыжы, Страсбургу. З 1772 палкоўнік артылерыі войска ВКЛ, у 1773—93 генерал артылерыі. З 1778 выбіраўся дэпутатам на соймы. З 1778 чл. Пастаянный Рады. Староста берасцейскі з 1783. З 1776 у апазіцыі да караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, выступаў супраць яго праекта вайсковай рэформы. На *Чатырохгадовым сойме 1788—92* абраны маршалкам канфедэрацыі ВКЛ, прыхільнік рэформ, падтрымаў *Канстытуцыю 3 мая 1791*. Выступіў супраць *Таргавіцкай канфедэрацыі*. Удзельнічаў у падрыхтоўцы *паўстання 1794*. З яго пачаткам праводзіў мабілізацыю ў Львове, Любліне, Берасці. Удзельнічаў у бітве пад Саламі 25.6.1794, абароне Вільні 11.8.1794. Пасля ў эміграцыі, памёр у Вене.




Да арт. **Сапегі**. Аляксандр Міхал Сапега. Партрэт 2-й пал.

Францішак (28.8.1772, Варшава—30.5.1829), сын Аляксандра Міхала. Вучыўся ў Віленскай гал. школе (унце). У 1792 увайшоў у кіраўніцтва Таргавіцкай канфедэрацыі, у складзе яе дэлегацыі наведаў Пецярбург. Генерал артылерыі ВКЛ у 1793—95, шэф карпусоў артылерыі і інжынераў. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794, яго кіраўнік у Слонімскім, Ваўкавыскім пав. і на ўсх. Падляшшы. Атрымаў чын генерал-лейтэнанта, камандаваў дывізіяй. Пасля задушэння паўстання прысягнуў Кацярыне II, атрымаў чын тайнага саветніка, быў прадвадзіцелем дваранства Мінскай губ. У сваіх маёнтках Ружаны і Дзярэчын трымаў тэатры.



Да арт. **Сапегі**. К.Н.Сапега. Мастак Ю.Пешка.

*Літ.*: Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Sapiehowie: Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1—3. Pb., 1890—94; Serżputowski T. Pierwsza próba reformy politycznej w Polsce. Warszawa, 1905; Piwarski K. Opozycja litewska pod koniec XVII wieku // Pamiętnik V powszechnego ziazdu historyków polskich w Warszawie. Lwów, 1930. T. 1; Labarre de Raillicourt D. Histoire des Sapieha, 1440—1970. Paryż, 1970; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Skowronek J. Aleksander Sapieha. Warszawa, 1992; Polski słownik biograficzny. T. 34—35. Wrocław etc., 1993—94; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995; Dom Sapieżyński. Warszawa, 1995; Rachuba A. Dzieje rodu Sapiehów. Warszawa, 1999.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Сапежышкаўскі касцёл** святога Яна Хрысціцеля. Пабудаваны ў мяст. Сапежышкі ў Жамойці (цяпер в. Запішкіс Каўнаскага р-на, Літоўская Рэспубліка). Раней лічылася, што ўзведзены ў 1570-х г. на сродкі канцлера ВКЛ Л.Сапегі. Паводле аргументаванага меркавання А.Янкявічэне яго паставіў у 1-й пал. 16 ст. гаспадарскі сакратар Ян Сапега, які заснаваў і мястэчка. У 1666 і 1698 зроблены рамонты храма. У 2-й пал. 17 ст. да гал. фасада прыбудавана драўляная вежа-званіца (існавала да пач. 20 ст.). У 1744 і 1763 пад уплывам барока зменена ступеньчатая форма франтонаў і стрэльчатае завяршэнне вокнаў бакавых фасадаў. У 19 ст. касцёл некалькі разоў рамантавалі. Рэстаўрыравалі ў 1923 пад кіраўніцтвам мастака А.Прэсаса і ў 1954—55 пад кіраўніцтвам архітэктара А.Умбрасаса.

Касцёл складаецца з квадратнага, крыху перакошанага ў плане асн. аб'ёму і роўнавысокага з ім прэсбітэрыя з апсідай. Да паўн. сцяны прэсбітэрыя прымыкае сакрыстыя, узведзеная пасля будаўніцтва касцёла. Сцены таўшчынёй 1 м пабудаваны з цэглы ў тэхніцы гатычнай мураўкі на вапнава-пясчанай рошчыне. Умацаваны невысокімі шматступеньчатымі складанапрафіля-


Сапежышкаўскі касцёл.

ванымі контрфорсамі. Фасады і франтоны аздоблены плоскімі нішамі разнастайных памераў і формы, якія ўтвараюць шмат'ярусную дэкаратыўную кампазіцыю. Асн. аб'ём дамінуе ў агульнай кампазіцыі і мае 2-схільнае пакрыццё даху, 5-гранная апсіда — шматсхільнае. У храм вядуць 2 уваходы стрэльчатай формы: галоўны і бакавы. Апошні зроблены ў паўд. сцяне прэсбітэрыя. Яны акцэнтаваны нішамі прамавугольнай формы. Інтэр'ер перакрыты плоскай драўлянай столлю на бэльках. Малітоўная зала аддзелена ад прэсбітэрыя трыумфальнай аркай паўцыркульнай формы. На паддашак вядуць прамыя ўсходы, зробленыя ў паўн.-зах. куце асн. аб'ёму. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 550.

*Літ.*: Jankevičienė A. Kulto pastatai // Lietuvos architektros istorija. Vilnius, 1987. T. 1; Я е ж. Lietuvos periferijos gotikini bažnyči architektros bruožai // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštysts gotika: sakrakin architektros ir dail. Vilnius, 2002; Zapyškis Šv. Jono Krikštytojo bažnyčia // Lietuvos sakralin dail. Vilnius, 2000. T. 1, kn. 4.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Сапуноў** Аляксей Парфенавіч [15(27).3.1851, мяст. Усвяты Веліжскага пав., цяпер Пскоўская вобл., Расія—2.10.1924], беларускі гісторык, археограф, краязнавец. Скончыў Аляксандраўскую гімназію ў Віцебску (1869), гіст.-філалагічны факультэт Пецярбургскага ун-та (1873). У 1873—96 настаўнік лацінскай і грэчаскай моў у Віцебскай гімназіі. З 1896 архіварыус Віцебскага цэнтр. архіва стараж. актаў. З 1897 выкладчык Маскоўскага ун-та. У 1901—07 і з 1913 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта. У 1907 выбраны дэпутатам ад Віцебскай губ. ў Дзярж. думу 3-га склікання, дзе падтрымліваў правае крыло акцябрыстаў. З 1918 заг. секцыі дэмаграфіі ў губернскім статыстычным бюро, з 1919 — у Віцебскім губернскім архіве. Актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Віцебскага царк.-археалагічнага музея, Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Адзін з ініцыятараў адкрыцця Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага ін-та, у якім выкладаў у 1911—22 (з 1913 праф.). Даследаваў гісторыю, л-ру, этнаграфію, археаграфію, архітэктуру, фальклор Беларусі, пераважна Падзвіння. Выявіў і зрабіў палеаграфічныя апісанні стараж. рукапісных помнікаў, апісаў Барысавы камяні, архівы Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Мінска. Выдаў зборнік дакументаў *«Віцебская даўніна»* (т. 1, 4, 5, 1883—88).

*Тв.*: Река Западная Двина: Ист.-географ. обзор. Витебск, 1893; Памятники времен древнейших и новейших в Витебской губернии. Витебск, 1903.

*Літ.*: Падлiпскi А. Летапісец Віцебшчыны. Мн., 1993; Хмяльніцкая Л. Гісторык з Віцебска: жыццяпіс Аляксея Сапунова. Мн., 2001 (змешчана бібліяграфія прац С.).

*Алена Філатава.*

**сарацыны**, негатыўная назва мусульман у сярэдневяковых заходнееўрапейскіх крыніцах. Рымскі гісторык грэчаскага паходжання Аміян Марцэлін (4 ст.) згадваў С. як адно з арабскіх плямён на ПнЗ Аравійскай пустыні. Паступова тэрмін «С.» пачалі ўжываць для абазначэння спачатку ўсіх арабаў, потым мусульман, а часам у шырокім сэнсе ўсіх некатолікаў. Тэрмін быў вядомы і на Русі, асабліва пашырыўся ў сувязі з *крыжовымі паходамі*. З канца 12 ст. яго этымалогію звязвалі з імем курдскага палкаводца, султана Егіпта Саладзіна (Салах-эд-Дзіна), які ў 1187—92 узначальваў супраціўленне мусульманскіх дзяржаў Блізкага Усходу крыжакам. У экзальтаванай свядомасці зах.-еўрап. духавенства і рыцарства, якія лічылі каталіцкую Зах. Еўропу акружанай адзіным фронтам нехрысціянскіх дзяржаў — ад мусульманскай Іспаніі і Блізкага Усходу да Літвы і Русі, «сарацынскай» дзяржавай уяўлялася і ВКЛ. Такія аблуды ўмела падтрымліваліся крыжацкай прапагандай для абгрунтавання «маральнага права» на агрэсію супраць ВКЛ, асабліва ў канцы 14 ст., калі пасля разгрому Тахтамыша Цімурам (Тамерланам) тут знайшла прытулак значная колькасць татараў. Французскі храніст і паэт, ідэолаг рыцарства Жан Фруасар, апісваючы падрыхтоўку да крыжовага паходу супраць турэцкага султана Баязіда, які скончыўся трагічным паражэннем хрысціянскай арміі пад Нікапалем у 1396, пісаў, што «Баязід і Каліф паслалі да некалькіх сарацынскіх каралёў — у Персію, Мідыю, Татарыю і нават у Літву на мяжы з Прусіяй». Англійскі храніст канца 14 ст. манах абацтва Сент-Олбанс Томас Уолсінгэм таксама лічыў «караля Літвы» Вітаўта «сарацынскім уладыкам», накшталт султанаў «Вавілоніі», Турцыі і татарскіх ханаў: «Гэты кароль Літвы павярнуўся ў веру хрысціянскую з нагоды шчаслівай перамогі, дараванай яму небам, разам з 60 тысячамі людзей сваёй секты, якія ў знак веры накладаюць на зброю белы плашч і прышываюць на тыя шаты крыж чырвонага колеру». У свядомасці Уолсінгэма вычварна спляліся самыя розныя падзеі: хрышчэнне Літвы ў 1387, разгром Баязіда Цімурам у 1402 і бітва на Ворскле 1399. Пасля *Вялікай вайны 1409—11* частата ўжывання тэрміна «С.» ў дачыненні да Літвы рэзка скарачаецца, але яшчэ ў 1420-х г., калі Вітаўта абвінавачвалі ў патаемным супрацоўніцтве з асманамі, баварскі храніст Ульрых фон Рыхенталь называў Вітаўта «герцагам сарацын».

*Літ.*: Piekosiński F. Gości polscy na soborze konstancyjskim // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział historyczno-filozoficzny. Ser. 2. Kraków, 1899. № 12; Zins H. Polska w oczach Anglików XIV—XVI w. Warszawa, 1974; Белы А. Пад крыжом святога Георгія // Падарожнік. 1996. № 2.

*Алесь Белы.*

**Сарбеўскі** (Sarbiewski) Мацей Казімір (24.2.1595, в. Сарбева каля г. Плоцк—2.4.1640), лацінамоўны паэт, літаратуразнавец, тэолаг, прадстаўнік культуры барока. Вучыўся ў Пултуску, скончыў Віленскую акадэмію. З 1612 чл. ордэна езуітаў, з 1623 ксёндз. Выкладаў у Полацкім езуіцкім калегіуме: у 1618—20 рыторыку, у 1626—27 паэтыку і тэорыю л-ры. У 1622—26 вывучаў у Рыме філасофію і тэалогію, рэдактар і дапрацоўшчык касцельных



М.К.**Сарбеўскі**.

гімнаў. Атрымаў у гэты час ад папы Урбана VIII ганаровае найменне «сармацкі Гарацый». У канцы 1620—сярэдзіне 1630-х г. выкладаў у Нясвіжскім езуіцкім калегіуме і Віленскай акадэміі (1628—35; праф. красамоўства, філалогіі і тэалогіі). З 1635 прапаведнік пры двары караля Уладзіслава IV. Аўтар трактатаў па рыторыцы, паэтыцы, антычнай міфалогіі: «Пра дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер», «Лекцыі па паэтыцы», «Багі язычнікаў» і інш. Выйшла 5 прыжыццёвых выданняў паэзіі С. (на канец 20 ст. больш за 60 выданняў). Яго літ. спадчына вывучалася ў еўрапейскіх гімназіях і ун-тах 17—19 ст. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 129.

*Тв.*: De perfecta poesii, sive Vergilius et Homerus (O poezji doskonałej, czyli Wergiliusz i Homer). Wrocław, 1954; Praecepta poetica (Wykłady poetyki). Wrocław, 1958; Dii gentium. Wrocław etc., 1972.

*Літ.*: Syrokomla W. Ksiądz M.K.Sarbiewski // Poezye księdza Macieja Kazimierza Sarbiewskiego. Wilno, 1851; Резанов В.И. К истории русской драмы: Поэтика М.К.Сарбевского. Нежин, 1911; Конан У.М. Полацкі курс паэтыкі М.К.Сарбеўскага (1618—1627 гг.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1972. № 1; Его ж. Гуманистическая интерпретация искусства и мифологии у М.К.Сарбевского // Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период.) Мн., 1997; Яго ж. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978.

***Наталля Сазановіч.***




М.К.**Сарбеўскі**. Вершы. Антверпен. 1632. Тытульны ліст. Гравюра П.Рубенса.

**сарматызм**, шляхецкая ідэалогія Рэчы Паспалітай, якая грунтавалася на тэорыі пра сарматаў як продкаў некаторых народаў Цэнтр. і Усх. Еўропы. Стараж.-грэчаскі вучоны Пталамей (2 ст.) Еўрапейскую Сарматыю пазначаў на тэр. ад Віслы да Дона, а Азіяцкую Сарматыю — на У ад Дона. Яго паслядоўнікі традыцыйна паказвалі існаванне гэтых тэрыторый, хоць да сярэдзіны 1-га тыс. сарматы зніклі з гіст. арэны. Зах.-еўрапейскія гісторыкі 7—12 ст. атаясамлівалі з сарматамі некаторыя славянскія народы — чэхаў, палякаў, рускіх. У 15 ст. гэтыя погляды распаўсюдзіліся ў Польшчы. Сарматаў як продкаў палякаў разглядаў Я.*Длугаш*. З канца 15 ст. пад Сарматыяй разумеліся ўсе землі, падуладныя дынастыі Ягелонаў. Л.Корвін у «Касмаграфіі» (1496) да Еўрапейскай Сарматыі адносіў Палонію (Польшчу), Мазовію, Прусію, Літву. Ян са Стаўбніцы ва «Уводзінах да касмаграфіі Пталамея» (1512) да Еўрапейскай Сарматыі залічваў Палонію, Мазовію, Прусію, Літву, Жамойць, Курляндыю, Лівонію. Аналагічныя погляды выказаны ў паэме Я.*Вісліцкага* «Пруская вайна» (1516), «Трактаце пра дзве Сарматыі» *Мацея з Мехава* (1517), працах дыпламата і паэта Я.Дантышака, гісторыка Ё.Л.*Дэцыя* і інш. Легенды пра Сарматыю як радзіму народаў Усх. Еўропы і сарматаў як продкаў славянскіх і суседніх народаў сталі ідэалагічным абгрунтаваннем дзярж. уніі Польшчы і ВКЛ, а пасля 1569 — існавання шматнацыянальнай і шматканфесіянальнай Рэчы Паспалітай. Канчаткова С. як этнагенетычны міф аформіўся ў творах М.*Бельскага* «Хроніка ўсяго свету» (1551) і «Аб паходжанні і гісторыі палякаў» М.*Кромера* (1555). А.*Гваньіні* ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» (1578) называў Рэч Паспалітую Сарматыяй, а славян атаясамліваў з сарматамі. Рабіліся спробы дапасаваць да тэорыі пра сармацкае паходжанне палякаў і літоўцаў легенду пра рымскае паходжанне літ. шляхты (міф пра *Палемона*). М.*Стрыйкоўскі* ў «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» (1582) сцвярджаў, што рымляне (Палемон і яго спадарожнікі)

заспелі на Літве мясц. сармацкае насельніцтва, у якім асіміляваліся. Такім чынам, палякі і літвіны нібыта ўсноўным паходзяць ад сарматаў; гэтым падкрэслівалася роўнасць і аднароднасць шляхецкага стану Рэчы Паспалітай. Да канца 16 ст. С. набыў рысы і класавай тэорыі, якая разглядала як нашчадкаў сарматаў найперш шляхту. У 17 ст. С. перажываў росквіт і стаў шляхецкім светапоглядам, культурай і ладам жыцця. Падкрэсліваліся заслугі польскай шляхты ў барацьбе з «нявернымі» (туркамі, татарамі), «схізматыкамі» (маскавітамі), ерэтыкамі-пратэстантамі (шведамі), што нібыта працягвала традыцыю перамог сарматаў над рымлянамі. З С. вырас месіянізм, сцвярджалася, што Рэч Паспалітая — падмурак хрысціянства, апора каталіцызму ва Усх. Еўропе. Ідэал С. — шляхціц-католік, які ў мірны час займаецца гаспадаркай, а ў час вайны выступае як ваяр. Ухваляліся патрыярхальныя адносіны на вёсцы паміж панамі і сялянамі і ў шляхецкай сям'і. С. вызначаўся кансерватызмам у эканам. і грамадскіх адносінах, не дапускаў магчымасці змен у шляхецкай «залатой вольнасці» і дзярж. ладзе Рэчы Паспалітай. Ад шляхты С. патрабаваў пэўнага ладу жыцця: паказной набожнасці і ахвярнасці на карысць касцёла, гасціннасці, правядзення ўрачыстых сямейных свят, нашэння багатай зброі, вопраткі і аксесуараў (кунтуша, жупана, пояса ўсх. тыпу і г.д.); у мастацтве ён выявіўся ў знешняй атрыбутыцы *партрэта сармацкага*. Такі лад жыцця ў Рэчы Паспалітай стаў узорным, да яго імкнулася і мяшчанства. Ідэолагамі С. ў мастацкай л-ры 17 ст. выступілі В.*Кахоўскі*, П.*Каханоўскі*, Я.А.*Морштын* і інш., якія праводзілі думку пра ідэальны лад Рэчы Паспалітай і ўзорнае паліт. жыццё краіны. С. садзейнічаў павелічэнню каставасці шляхецкага стану. У 18 ст. С. перажываў крызіс, выкліканы пачаткам заняпаду Рэчы Паспалітай. У гіст. навуцы даказвалася беспадстаўнасць сармацкага міфа, ставіліся пад сумненне каштоўнасці шляхецкай дзяржавы і ўсяго ладу жыцця. Асабліва ўзмацнілася крытыка С. з пашырэннем у 2-й пал. 18 ст. ідэалогіі Асветніцтва. С. пачалі звязваць з нявыхаванасцю і маральным заняпадам. Як плынь у ідэалогіі С. ажывіўся ў 1830—40-я г. як разнавіднасць рамантызму. Тагачасны С. вылучаўся патрыятычна-паўстанцкімі тэндэнцыямі, а шляхта разглядалася як асн. сіла адраджэння Рэчы Паспалітай (творы А.Міцкевіча, Г.Жавускага, І.Ходзькі, У.Сыракомлі, Ю.І.Крашэўскага і інш.). У Галіцыі дзейнічала тайная арг-цыя «Маладая Сарматыя», у Віленскім ун-це — «Племя сарматаў». З ідэалагічнай арэны С. сышоў пасля аграрнай рэформы 1860-х г. і падаўлення паўстання 1863—64.

*Літ.*: Mańkowski T. Genealogia sarmatyzmu. Warszawa, 1949; Ulewicz T. Sarmacja: Studium z problematyki słowiańskiej XV i XVI w. Kraków, 1950; Яго ж. Zagadnienie sarmatyzmu w kulturze i literaturze polskiej: (Problematyka ogólna i zarys historyczny) // Zeszyty naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego [T.] 59. Prace historyczno-literackie. Z. 5. Kraków, 1963; Cynarski S. Sarmatyzm — ideologia i styl życia // Polska XVII wieku: Państwo — spoleczeństwo — kultura. Warszawa, 1969; Chrzanowski T. Wędrówki po Sarmacji europejskiej. Kraków, 1988; Słownik sarmatyzmu: idee, pojęcia, symbole. Kraków, 2001.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сарнецкі** Казімір (?—пасля 1712), каралеўскі сакратар, аўтар дзённікавых запісаў. Паходзіў са шляхецкай сям'і ВКЛ. У 1691—96 пры двары караля Яна III Сабескага ў Варшаве, Жоўкве і Львове як рэзідэнт і інфарматар падканцлера ВКЛ К.С.*Радзівіла*. Суправаджаў караля ў час малдаўскага паходу 1691. Штотыдзень дасылаў Радзівілу свае штодзённыя запісы, спец. рэляцыі, звесткі з перыядычных выданняў з ваеннымі і паліт. навінамі. Пісаў пераважна пра падзеі пры двары і тыя, што датычылі ўнутр. палітыкі. Захаваліся дзённікавыя запісы 1691—95 і лісты 1690—96, якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі панавання Яна III. Меў званне каралеўскага сакратара, з 1693 стольнік віцебскі. З 1698 (?) на сталай службе ў Радзівіла, у 1702—12 сакратар вял. кароннага канцлера.

*Тв.*: Pamiętniki z czasów Jana Sobieskiego: Diarius i relacje z lat 1691—1696. Wrocław, 1958.

**Сарніцкі** (Sarnicki) Станіслаў (1532—23.9.1597), польскі гісторык, кальвініцкі рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Караляўцы і Вітэнбергу. Удзельнічаў у пасольстве да Генрыка Валезы ў час яго абрання на трон Рэчы Паспалітай (1573), у 1575 падтрымаў абранне Стафана Баторыя. Твор С. «Гетманскія кнігі з рыцарскіх гісторый усіх вякоў сабраныя...» (1577, не надрукаваны) напісаны на аснове прац польскіх і замежных гісторыкаў, у т.л. Я.Длугаша, М.Кромера, Ё.Л.Дэцыя, а таксама «гісторый рускіх і літоўскіх», прысвечаны вайсковай справе і яе гісторыі. У 1582 выдаў праспект гісторыі Польшчы «Аналы Польшчы». У 1587 апублікаваў «Аналы, або Пра паходжанне і гісторыю Польшчы і Літвы» — 1- я спроба выкласці гісторыю ўсіх слав. народаў з легендарных часоў; пры гэтым ён атаясамліваў стараж. славян з сарматамі. 6-я кніга твора прысвечана гісторыі Польшчы ад прыняцця хрысціянства да Казіміра III (14 ст.), 7-я давезена да смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572), у 8-й кнізе апісаны соймы да смерці Баторыя (1586). С. некрытычна ставіўся да свіх крыніц, сярод якіх былі розныя хронікі, рэляцыі, паэтычныя творы, працы Кромера, М.Стрыйкоўскага і інш. У працы «Апісанне старой і новай Польшчы» (Кракаў, 1585) апісаў народы і змену межаў Польшчы і Рэчы Паспалітай, змясціў алфавітны спіс населеных месцаў і фізіяграфічных аб'ектаў Польшчы, ВКЛ і Сілезіі з інфармацыяй гіст., геаграфічнага і генеалагічнага характару. Склаў неафіцый-



С.**Сарніцкі**. Статуты і метрыка каронных прывілеяў. Кракаў. 1594. Тытульны ліст.



ны зборнік «Статуты і метрыка каронных прывілеяў» (Кракаў, 1594), які выкарыстоўваўся ў судах да 18 ст.

*Літ.*: Barycz H. Szlakami dziejopisarstwa staropolskiego: Studia nad historiografią w. XVI—XVIII. Wrocław, 1981.

***Альбіна Семянчук.***

**Сарторыс** Юзаф (?, г. Турын, Італія—13.12.1799), лекар, хімік. Вучыўся філасофіі і медыцыне ў Турыне, дзе атрымаў ступень д-ра медыцыны. Пасля вывучаў хімію, у т.л. ў Парыжы і ў Англіі. Па рэкамендацыі С.Л.*Бізіо* ў 1784 Адукацыйная камісія запрасіла С. на пасаду праф. кафедры хіміі ў Гал. школу ВКЛ, дзе выкладаў у 1785—93. Стварыў у Вільні хімічную лабараторыю, рабіў хімічны аналіз мінеральных вод у Стаклішках. Па ініцыятыве М.*Пачобута-Адляніцкага* ў час знаходжання ў Італіі вёў перагаворы пра пераезд у Вільню фізіка А.Вольта. У 1793 выехаў у Італію, ахвяраваўшы 300 дукатаў на пабудову ў Вільні клінікі. Чл. Каралеўскай акадэміі ў Турыне.

**«Сас»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 300 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Даніловічы, Скольскія, Сялецкія, Урускія, Шаптыцкія. Асн. варыянт герба мае ў блакітным полі залаты маладзік рагамі ўгару, над ім паміж дзвюма 6-канцовымі залатымі зоркамі сярэбраная страла ўгару; клейнод — над прылбіцай з каронай паўлінавыя пёры, прабітыя стралой. Існуюць варыянты герба з 3 зоркамі над маладзікам, клейнод — 3 страусавыя пёры; з чырвоным полем і стралой уніз, клейнод — на 6 чаплевых пёрах рука з мячом; і інш. Вядомы з сярэдзіны 15 ст.

**Сасна** (Сосна) Рыгор Афанасьевіч (н. 30.4.1939, в. Шэрні Бельскага пав. Беластоцкага ваяв.), беларускі гісторык, краязнавец і грамадскі дзеяч у Польшчы. Магістр багаслоўя (1966). Скончыў Хрысціянскую тэалагічную акадэмію ў Варшаве (1963). Служыў святаром у бел. правасл. прыходах Беласточчыны, з 1987 настаяцель прыхода ў в. Рыбалы. Вывучае гісторыю правасл. царквы ў Польшчы, бібліяграфію ўсх. хрысціянства, польскі друк пра Беларусь. Аўтар даследавання «Бібліяграфія праваслаўных прыходаў на Беласточчыне» (Беласток, 1984—93).

*Тв.*: Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim. Białystok, 1995 (з Д.Фёнікам), Parafja Ryboły. Białystok, 1999 (з ім жа); Очерк истории православной церкви на Белостотчине // Православная церковь на Белостотчине в работах протоиерея Григория Сосны. Мн., 1994 (змешчана бібліяграфія прац С.).

***Ларыса Языковіч.***

**Сасы** (польск. Sasy саксонцы), пашыраная назва дынастыі каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх з роду *Вецінаў*: Аўгуста II Моцнага [1697—1706, 1709—33] і Аўгуста III [1733—63], якія адначасова былі і курфюрстамі саксонскімі.

**Саўлеская бітва 1236.** Адбылася 22 вер. паміж войскам жамойтаў і замгалаў з аднаго боку і крыжаносцамі з другога. У 2-й пал. лета 1236 быў арганізаваны крыжовы паход на Жамойць, у якім удзельнічалі Лівонскі ордэн і шмат рыцараў з Зах. Еўропы. У крыжацкім войску былі таксама хрышчаныя эсты, лівы, латгалы, 200 ваяроў з саюзнага Пскова, а таксама воіны з Ноўгарада. Калі ўдзельнікі паходу са здабычай вярталіся назад, на іх напалі жамойты і земгалы. Бітва адбылася каля населенага пункта Саўле (такая назва ў нямецкіх хроніках, яго атаясамліваюць з сучасным г. Шаўляй у Літве або з в. Вецсаўле ў Латвіі). У балоцістай мясцовасці цяжкая конніца рыцараў не змагла супрацьстаяць лёгкаўзброенаму праціўніку. Быў забіты магістр Фолькевін, 48 рыцараў, шмат інш. крыжакоў. У выніку паражэння ордэна супраць яго паўсталі куршы, земгалы і селы, ён фактычна страціў заваяваныя раней землі на левым беразе Дзвіны. У 1237 Лівонскі ордэн быў вымушаны далучыцца да Тэўтонскага. Жамойць часова пазбавілася крыжацкіх нападаў.

*Літ.*: Ivinskis Z. Saules-Šiauliu kautynes 1236 m. ir ju reikšme. Kaunas, 1936; Lietuvi karas su kryžiuočiais. Vilnius, 1964.

**саха**, зямельны надзел, адзінка абкладання натуральным або грашовым падаткам у феадальнай Расіі і ВКЛ. У ВКЛ вядома з 15 ст. на паўн.-ўсх. землях. У пач. 16 ст. ў залежнасці ад тыпу вупражы вылучалі конскую С. і валовую С., з якіх спаганялася *сярэбшчына*. З сярэдзіны 16 ст. С. захоўвалася на тэрыторыях, слаба ахопленых *валочнай памерай*, пераважна ў дзярж. уладаннях, побач са *службай, валокай* і дваром. У некаторых уладаннях С. называлі валоку (Браслаўскае староства, 1562; Веліжскае староства, 1772), службу або яе частку (Бабінавіцкае староства, 1739; Цяложскае староства, 1769). У Віцебскім ваяв. ў 1529 служба прыраўноўвалася да 24 С. або дзён ворыва. У Веліжскім старостве ў 1783—89 С. — 290 дзесяцін прыдатных угоддзяў. У працэсе раздачы дзярж. уладанняў у прыватныя рукі на мяжы 18—19 ст. пасошнае абкладанне выцяснялася падворна-душавым і дзесяцінным.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1, Киев, 1901; Stamm E. Miary powierzchni w dawniej Polsce. Kraków, 1936; Черепнин Л.В. Русская метрология. М., 1944; Tarvel E. Wspólne cechy najstarszych jednostek pomiaru ziemi w Europe Wschodniej // Zapiski Historyczne. 1971. T. 36. Z. 2.

***Яўген Анішчанка.***

**сацыніянства**, рэлігійны рух антытрынітарнай накіраванасці, які арганізаваўся ў Польшчы і ВКЛ у канцы 16 ст. пад уплывам і кіраўніцтвам Ф.*Соцына*. Пасля вылучэння са складу кальвініцкага руху ў пач. 1560-х г. *антытрынітарыі* распаліся на розныя плыні, якія знаходзіліся ў спрэчках паміж сабой. Частка з іх, узначаленая С.*Будным* (у ВКЛ) і М.*Чаховіцам* (у Польшчы), займала радыкальныя пазіцыі, набліжаючыся да анабаптызму і семіюдаізму. Супраць іх выступіў Соцын, які заняў памяркоўную пазіцыю. Яна шмат у чым адпавядала памкненням і класавым інтарэсам шляхты, што абумовіла поспех С. ў яе асяроддзі. С. прызнавала вартасць дзяржавы, удзел у судах і войнах, уладанне маёмасцю (у т.л. прыгонніцтва, але без уціску сялян), аддзяленне царквы ад дзяржавы і неабходнасць рэлігійнай талерантнасці, вял. значэнне надавала асвеце і адукацыі. С. імкнулася спалучыць хрысціянства з гуманізмам. Аўтарытэт Бібліі прызнаваўся, але ў той меры, у якой яна не пярэчыла розуму. Таінствы разглядаліся як духоўныя сімвалы. Догмат Св. Тройцы адмаўляўся, таксама як і існаванне пекла і хрышчэнне дзяцей. У адносінах паміж вернікамі С. імкнулася рэалізаваць гуманістычныя ідэалы ранняга хрысціянства. Ідэі С. паклалі пачатак рэлігійнага лібералізму і рацыяналі-



стычнай крытыцы Біблії. Значнае распаўсюджанне С. атрымала ў Малой Польшчы (каля 200 грамад), дзе яго цэнтрам стаў г. Ракаў, у якім былі створаны акадэмія і друкарня. У ВКЛ пашырэнне С. было слабейшым, пераважна ў паўн.-зах. Беларусі. Найб. выдатнымі сацыніянамі ў Беларусі, апрача Буднага, былі Я.Л.*Намыслоўскі*, Я.*Даманеўскі*, М.Цвердахлеб, Ц.Кузьміч. Арганізацыйна польскія і бел. сацыніяне былі незалежныя і называліся, адпаведна, польскімі і літ. братамі. Вял. пашырэнне С. атрымала сярод укр. шляхты, пераважна на Валыні. У Ляхаўцы, маёнтак заможных шляхціцаў-сацыніян Сенют, у 1638 пераехала акадэмія антытрынітарыяў з Ракава пасля яе закрыцця соймам (дзейнічала да 1648). С. таксама пашыралася ў Трансільваніі. У 1658—62 сацыніяне былі выгнаны з Рэчы Паспалітай і перасяліліся ў Нідэрланды і Трансільванію. Іх дактрына ў 18 ст. распаўсюдзілася ў Англії і ЗША пад назвай унітарызму, які існуе і цяпер у англамоўных краінах.

*Літ.*: Fock O. Das Socianismus nach seiner Stellung in der Gesamtentwicklung des christlichen Geistes. Kiel, 1847; Левицкий О. Социнианство в Польше и югозападной России // Киевская старина. 1882. № 4—6; Wilbur E.M. A History of Unitarianism, Socianism and Its Antecedents. Cambridge (Mass.), 1947; Studia nad Arianizmen / Wyd. L.Chmaj. Warszawa, 1959; Ogonowski Z. Socynianizm a Oświecenie: Studia nad myślą filozoficzno-religijną arian w Polsce XVII wieku. Warszawa, 1966; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970; Socinianism and Its Role in the Culture of the XVIth to XVIIIth centuries / Wyd. L.Szczucki. Warszawa; Łódź, 1983.

***Ігар Клімаў.***

**«Сацыяльна-палітычная барацьба народных мас Беларусі. Канец XIV ст.—1648 г.»** («Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии. Конец XIV—1648 г.»), зборнік гістарычных крыніц, падрыхтаваны Інстытутам гісторыі АН БССР і Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архівам БССР у Мінску. З запланаваных 3 тамоў выдадзены т. 1 (1988). Змяшчае 167 рэгестаў, дакументаў, вытрымак з дакументаў, большасць з якіх апублікавана ўпершыню. Дакументы выяўлены ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў СССР, Цэнтр. дзярж. архіве БССР у Мінску, Цэнтр. дзярж. архіве Літ. ССР, рукапісным аддзеле Цэнтр. дзярж. б-кі АН Літ. ССР. Дакументы на старажытнабел. мове пададзены ў адаптаваным напісанні, на польскай і лацінскай мовах — у рус. перакладзе. Зборнік асвятляе антыфеад. барацьбу і змаганне з рэліг. прыгнётам. Сярод апублікаваных дакументаў граматы і прывілеі Жыгімонта І Старога, Жыгімонта ІІ Аўгуста, Уладзіслава IV, дакументы канцыляры ВКЛ, магістратаў, гродскіх і земскіх судоў, перапіска. Дакументы маюць звесткі пра ўцёкі і хваляванні сялян, у т.л. Свіслацкай вол. ў 1589, адмову сялян выконваць павіннасці і свавольнае заворванне імі зямлі, высечку лесу, узброеныя напады на маёнткі паноў, пра жорсткае абыходжанне паноў і арандатараў з сялянамі, пра памеры падаткаў і павіннасцей сялян («Устава на цынш» маёнтка Іўе 1561 і інш.). Ёсць звесткі пра рамесныя цэхі, непадпарадкаванне і супраціўленне рамеснікаў гар. уладам, гвалтоўнае далучэнне гараджан да уніяцтва (дэкрэт задворнага асэсарскага суда аб пакаранні мяшчан Магілёва за выступленні супраць архіепіскапа І.Кунцэвіча 1620, ліст віцебскага ваяводы Я.Завішы Жыгімонта ІІІ пра забойства віцебскімі мяшчанамі Кунцэвіча 1623 і інш.). У зборніку змешчаны тэрміналагічны слоўнік, геаграфічны паказальнік. Недахопы выдання: адсутнасць пераліку апублікаваных дакументаў, неадпаведнасць зместу шэрагу дакументаў тэме выдання, небел. мова выдання, ёсць выпадкі лексічных недакладнасцей, неўзнаўленне загалоўкаў дакументаў, неагаворвання апушчаных месц у тэксце дакументаў.

***Юрый Несцяровіч.***

**Свержанская духоўная семінарыя**, уніяцкая навучальная ўстанова для падрыхтоўкі святароў. Заснавана ў мяст. Свержань Навагародскага пав. (цяпер вёска Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на) у 1739 М.К.*Радзівілам* Рыбанькам пры *Свержанскім Успенскім манастыры* з абавязкам утрымліваць у семінарыі 12 навучэнцаў. Тэрмін навучання 6 гадоў. Школа знаходзілася ў будынку манастыра. Падпарадкоўвалася літоўскаму правінцыялу базыльянскага ордэна. Спачатку ў семінарыі былі добрыя выкладчыкі і вял. бібліятэка, аднак з цягам часу выплаты па фундацыі сталі прыходзіць не рэгулярна, і семінарыя прыйшла ў заняпад. У 1776—83 пры ёй дзейнічала 3-класнае аддзяленне для свецкіх вучняў, заснаванае па ініцыятыве ордэна без ведама Адукацыйнай камісіі. Прарэктар Нясвіжскага падакруговага вучылішча ў 1783 рэарганізаваў семінарыю ў парафіяльную. Клірыкі і свецкія вучні займаліся разам па езуіцкіх праграмах. У 1833 семінарыя зачынена.

***Андрэй Самусік.***

**Свержанская фаянсавая мануфактура.** Заснавана ў мяст. Свержань (цяпер в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на) у 1742 М.К.*Радзівілам* Рыбанькам. Стала другой у Рэчы Паспалітай пасля фаянсавай мануфактуры ў Белай, што належала Г.К.*Радзівіл*, маці Рыбанькі. Апошні паслаў сваіх падданых з Міра Яна Крупуса і Мацея Кручкоўскага на мануфактуру ў Белай для атрымання прафесійных ведаў і навыкаў. Сваё навучанне яны скончылі ў жн. 1741 і па вяртанні з дапамогай мясц. ганчара Яна Граймовіча пачалі арганізацыю фаянсавай мануфактуры ў Свержані. У крас. 1742 яна выпусціла першую прадукцыю. Перыяд станаў-




Фрагменты посуду **Свержанскай фаянсавай мануфактуры** (унізе справа — кляймо мануфактуры). Сярэдзіна 18 ст.



Міскі **Свержанскай фаянсавай мануфактуры**. Сярэдзіна 18 ст. Раскопкі Дз.Каваленкі ў Нясвіжы.

лення вытворчасці заняў прыкладна год, і мануфактура пачала працаваць рытмічна, паступова нарошчваючы аб'ёмы прадукцыі. Спачатку гатовай прадукцыі было загадана выдаваць па 1 печы ў месяц. На такія аб'ёмы майстры выйшлі прыкладна ў сярэдзіне 1743. Паводле інструкцыі 1752 «фарфурнікі» павінны былі выпускаць па 2 партыі гатовай прадукцыі ў месяц, здаралася, што рабілі і па 3. Увесь клопат па арганізацыі новай вытворчасці ў Свержані неслі мясц. майстры. Толькі 1 іншаземец працаваў на С.ф.м. за ўсю гісторыю прадпрыемства — пераведзены ў 1744 з Белай немец Кюнтцэльман. Адным з найважнейшых яго абавязкаў была падрыхтоўка мастакоў з мясц. хлопцаў. У ліст. 1745 выраблена першая партыя пячной кафлі. Пералік спецыяльнасцей і тэхналагічных аперацый сведчыць пра выразны падзел працы, абумоўлены характарам вытворчасці. Эканам. палітыка гаспадара была скіравана на павелічэнне аб'ёму прадукцыі, што пастаўлялася на рынак. Дзеля гэтага прымаліся як пратэкцыяніСцкія меры, так і крокі, скіраваныя на развіццё вытворчасці, пашырэнне асартыменту і павышэнне якасці вырабаў. Асновай поспеху працы мануфактуры быў аптымальны баланс паміж якасцю і коштам прадукцыі. Асартымент прадукцыі С.ф.м. падзяляўся на 4 асн. групы: сталовы і дэкаратыўны посуд, пластыка, санітарна-гігіенічная кераміка, пячная кафля. На некаторыя вырабы кобальтам ставіліся клеймы — літары SM. У апісанні мануфактуры 1765 пералічаны вытворчыя будынкі: «фарфурня дужая» з 5 памяшканнямі, дзе пасудзіны і дробная пластыка фармаваліся, сушыліся і размалёўваліся; скарбец з шафамі і паліцамі «для складання фарфураў»; вял. гумно, ці адрына пад дахам; будынак «кафельні» з варштатам для вырабу кафлі і печчу для абпалу; асобны будынак з печамі для абпалу фарфураў і прыгатавання паліваў. С.ф.м. спыніла працу каля 1764.

*Літ.*: Przyrembel Z. Farfurnie polskie dawne i dzisiejsze. Lwów, 1936; Карпачев А.М. О социально-экономической сущности вотчинной мануфактуры // Вопросы истории. 1957. № 8; Ганецкая І. Свержанская фаянсавая мануфактура XVIII ст. // Бел. гіст. часопіс. 2004. № 3; Яе ж. Праблема ідэнтыфікацыі вырабаў свержанскай фаянсавай мануфактуры // Праблемы ідэнтыфікацыі мастацкай спадчыны Нясвіжа ў агульнаеўрапейскім кантэксце культуры. Мн., 2004.

*Ірына Ганецкая.*

**Свержанскі Успенскі манастыр**, мужчынскі базыльянскі манастыр у мяст. Свержань (цяпер в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на) у 1739—1833. Існаваў пры царкве, пабудаванай каля 1590 М.К.*Радзівілам* Сіроткам паводле плана італьянскага архітэктара Я.М.*Бернардоні*. У 1739 М.К.*Радзівіл* Рыбанька заснаваў пры царкве манастыр для 4 манахаў-выкладчыкаў і *Свержанскую духоўную семінарыю*, на ўтрыманне даў 3 валокі зямлі і абяцаў плаціць 5200 злотых штогод. Гіст. і мастацкай каштоўнасцю манастыра быў цудатворны абраз Маці Божай Навасвержанскай. Паводле легенды, ён з'явіўся каля 1500 на дрэве ў лесе на месцы, дзе потым была пабудавана царква. Пра гісторыю цудаў абраза была складзена кніга (выдавалася ў 1650 і 1754). Паступова з-за нявыплат фундушавых грошай манастыр прыйшоў у заняпад: у 1812 былі толькі 2 манахі. У 1833 скасаваны. Будынкі не захаваліся. Царква пераўтворана ў праваслаўную. Абраз у 1960-я г. знік пры закрыцці царквы.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Светлагорск**, горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр раёна, гл. *Шацілавічы.*

**Свідрыгайла** (у праваслаўі Леў, у каталіцтве Баляслаў; каля 1370—10.2.1452), вялікі князь літоўскі [1430—32]. Сын вял. кн. *Альгерда* і яго 2-й жонкі, цвярской князёўны Юльяны, малодшы брат вял. кн. *Ягайлы*. У лют. 1386 перад каранацыяй Ягайлы польскаю каронаю ў Кракаве быў у складзе дэлегацыі ВКЛ і з праваслаўя перайшоў у каталіцтва. Атрымаў ад Ягайлы ва ўдзел Віцебскае княства. Калі гаспадаром ВКЛ стаў *Вітаўт,* то ў 1393 пазбавіў С. віцебскага пасада. З таго часу С. ў апазіцыі да Вітаўта. Быў высланы ў Кракаў, дзе ўтрымліваўся ў вязніцы. Пазней Ягайла вызваліў яго. У 1396 С. накіраваўся па дапамогу да крыжакоў у Лівонію і з лівонскімі атрадамі заняў Віцебск. Вітаўт зноў аблажыў і ўзяў горад. Паланёнага С. адправілі ў Польшчу да Ягайлы, але С. зноў паміраўся з братам. У складзе войска ВКЛ С. ўдзельнічаў у *бітве на Ворскле 1399*. У 1400 атрымаў княжанне ў Падоллі, прынёс прысягу Вітаўту. Аднак у 1402 уцёк у Прусію, каб з дапамогай крыжакоў узысці на велікакняжацкі трон у Вільні; удзельнічаў у паходах крыжакоў на Літву. Пасля прымірэння з Вітаўтам у 1407 атрымаў Северскае княства (сталіца Бранск). У 1408 разам з групай князёў і баяр ад'ехаў да вял. маскоўскага кн. Васіля I, ад якога атрымаў гарады Уладзімір на Клязьме, Юр'еў-Польскі, Волак Ламскі, Ржэў і палову Каломенскага княства. Але яго план з дапамогай маскоўскага войска захапіць трон у Вільні не здзейсніўся. У 1409 С. вярнуўся ў ВКЛ, вёў перагаворы з крыжакамі аб звяржэнні Вітаўта. Восенню 1409 С. схоплены слугамі Вітаўта і пасаджаны ў замак Камянец. У сак. 1418 С. ўдалося ўцячы ў Венгрыю. Ён зноў паміраўся з Ягайлам і Вітаўтам, у 1419 атрымаў ад апошняга ва ўдзел Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі і Бранск. Удзельнічаў у паходах Вітаўта, вял. паліт. актыўнасці не праяўляў, аднак здабыў вял. аўтарытэт у правасл. баяр ВКЛ. Пасля смерці Вітаўта па дамоўленасці з Ягайлам на з'ездзе паноў і баяр ВКЛ у 1430 С. большасцю галасоў быў абраны вял. князем літоўскім. Адразу адбыўся канфлікт паміж польскімі панамі і С. Польскія войскі ўступілі ў Падолле і захапілі памежныя замкі. Ягайла, які знаходзіўся ў Вільні, быў затрыманы і


**Свідрыгайла**. Гравюра 16 ст.

адпушчаны ў Польшчу пасля згоды вярнуць захопленыя замкі. У 1431 С. заключыў саюз з Тэўтонскім ордэнам, Вял. Ноўгарадам і чэшскімі табарытамі з мэтай дасягнення поўнай незалежнасці ВКЛ ад польскага караля. Ваенныя дзеянні на Валыні і Падоллі працягваліся, Тэўтонскі ордэн таксама пачаў вайну з Польшчай. Каб пашырыць сваю апору ў ВКЛ, С. аддаваў дзярж. пасады пераважна бел. праваслаўным баярам, што выклікала незадавальненне літ. баярства. 1.9.1431 было падпісана перамір'е з Польшчай на 2 гады, у выніку якога С. быў прызнаны Польшчай вял. князем і ўладаром усіх зямель ВКЛ. Вясной 1432 у адказ на спробы польскіх феадалаў навязаць ВКЛ новую унію С. фактычна разарваў саюзныя адносіны з Польшчай і пацвердзіў саюз з Тэўтонскім ордэнам. У ВКЛ пры дапамозе польскіх паноў была арганізавана змова супраць С. У ноч на 1.9.1432 адбыўся дзярж. пераварот, змоўшчыкі спрабавалі забіць вял. князя ў Ашмянах, але папярэджаны С. ўцёк


Пячатка **Свідрыгайлы**. 1422.

у Полацк. Вял. князем у Вільні быў абраны *Жыгімонт Кейстутавіч*, уладу якога прызналі Літва, Жамойць, Падляшша, Берасцейская і Менская землі, прынёманскія воласці. Астатнія бел., укр. і рус. землі падтрымалі С., які замацаваўся ў Віцебску. Паміж С. і Жыгімонтам Кейстутавічам пачалася *феадальная вайна 1432—39*, у якой С. пацярпеў паражэнне. Кароль Польшчы Уладзіслаў III (пляменнік С.) выдзеліў яму невял. княства ў Покуцці (на Пд Галіччыны). У 1440 С. спрабаваў вярнуць уладу ў ВКЛ. Пасля забойства Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 вял. князь *Казімір IV* Ягелончык аддаў С. Валынскае княства, дзе С. панаваў да сваёй смерці.

*Літ.:* Коцебу А. Свидригайло, великий князь литовский...: Пер. с нем. СПб, 1835; Stadnicki K. Bracia Władysława-Jagiełły Olgierdowicza... Lwów, 1867; Wolff J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; Соловьев С.М. Сочинения. Кн. 2. М., 1988; Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990; Грыцкевіч А. Свідрыгайла Леў // Скрыжалі «Спадчыны». Мн., 1996. Вып. 2;

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Свірскія**, княжацкі род герба «Ліс». Першыя прадстаўнікі роду вядомы з дакументаў 1-й трэці 15 ст. Андрэй С. падпісаў Кірстымонскі мірны дагавор 15.5.1432 вял. кн. Свідрыгайлы з Інфлянцкім ордэнам. Браты Эрык і Раман С. падпісалі акты Троцкай уніі 1433 і Гарадзенскай уніі 1434, вядомы таксама іх брат (?) Івашка. Раман меў сына Яна, які свае маёнткі Сырмеж, Споры і частку Свіра запісаў жонцы, якая 2-м шлюбам была за К.Германовічам, што выклікала судовыя працэсы за спадчыну. Сын Эрыка Петка (?—да 1464) у шлюбе з Аленаю Доўгірдаўнаю меў 6 дачок і 7 сыноў. Сярод іх Андрэй Петкавіч (?—пасля 1503), канонік віленскі, пробашч варнянскі, валодаў Варнянамі; Якуб Петкавіч (?—да 1528) харужы свірскі; Марцін і Міхал Петкавічы (?—пасля 1503). Марцін пакінуў 6 сыноў, у Міхала вядомы 5 сыноў, якія распрадалі родавыя маёнткі. Унук Івашкі Юхна таксама прадаў у 1528 Ю.Радзівілу свой маёнтак разам з г. Свір і правам карыстання воз. Свір. Меў 3 сыноў і дачку. Андрэй Юхнавіч (?—пасля 1533) прадаў у 1527 сваю частку Мядзела Гаштольду, а астатнюю частку — яму ж разам з братам Войцехам у 1533. Войцех Юхнавіч (?—1547) быў харужым крэўскім і свірскім (згадваецца з 1540). Ад Андрэя Юхнавіча пайшлі шматлікія нашчадкі роду. Унук Міхала Петкавіча Лукаш Баляславіч (?—1593) — пісар віленскага ваяводы М.Радзівіла Чорнага, дваранін гаспадарскі, маршалак гаспадарскі з 1565. Быў старастам крэўскім (згадваецца з 1569), цівуном бержанскім, выкупіў частку Свіра. Януш Баляславіч (?—1597) — мастаўнічы полацкі (згадваецца з 1561), маршалак гаспадарскі (згадваецца з 1566), дзяржаўца мейшагольскі з 1569, намеснік віленскі (згадваецца з 1588). Адзін з унукаў Марціна Петкавіча Якуб Аляксандравіч (?—1585) быў маршалкам гаспадарскім з 1580. Гэтая лінія роду С. і лінія Міхала Петкавіча мелі працяг.

*Літ.:* Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa. 1895. S. 505—518.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Свіслацкае княства**, удзельнае княства ў складзе ВКЛ на р. Бярэзіна ў 14 ст. Цэнтр — *Свіслач*. Адзіны вядомы князь Сямён Свіслацкі ўпамінаецца ў летапісах пад 1349, калі быў пасланы вял. кн. Альгердам разам з князямі Міхаілам, Карыятам і Айкшой у пасольства да татараў. Некаторыя гісторыкі атаясамлівалі Сямёна Свіслацкага з Сямёнам, сынам вял. кн. Яўнута (гл. ў арт. *Заслаўскія*) або з Сямёнам Ямантавічам (гл. ў арт. *Ямантавічы*). У 1387 вял. кн. Ягайла перадаў *Свіслацкую воласць* разам з інш. землямі ў пажыццёвае ўладанне Скіргайлу. Пасля Свіслач — дзярж. ўласнасць.

*Літ.:* Wolff J. Rod Gedimina. Kraków, 1886.

***Валерый Пазднякоў.***

**Свіслацкая воласць**, буйны дзяржаўны маёнтак у нізоўі р. Свіслач (прыток Бярэзіны) у 14—18 ст. Першапачаткова ўяўляла сабой, напэўна, цэнтр. частку *Свіслацкага княства*, далучанага да ВКЛ у сярэдзіне 14 ст. У 15 ст., відаць, мела двайное падпарадкаванне Віленскаму і Троцкаму ваяв. У 1417 з С.в. вылучаны маёнтак Блужа, у 1440-я г. — маёнтак Божына. Магчыма, з С.в. вылучаны і маёнтак Турэц, які ў 15 ст. належаў кн. Дз.Друцкаму-Зубравіцкаму і яго нашчадкам. У 2-й пал. 15 ст. да баяр Катовічаў перайшлі сёлы Брадзец, Горкі і Максімовічы. У 1-й пал. 16 ст.

Аўтар В.Л.Насевіч

С.в. уваходзіла ў Віленскае ваяв. На пасадзе свіслацкіх намеснікаў вядомыя: Г.Грамыка (1511—18), В.Насілоўскі (1518—22), А.Я.Неміровіч (1522—35), кн. К.І.Заслаўскі (1540), кн. В.М.Сангушка (1546—52), С.Давойна (1558—63), Б.Корсак (1564), кн. А.Курбскі (1565). У 1513 і 1534 свіслацкія валашчане выйгравалі судовыя справы супраць намеснікаў Грамыкі і Неміровіча, абвінавачаных у злоўжываннях. У час намесніцтва Насілоўскага ў яго прыватную ўласнасць перайшлі сёлы Жыцін, Жорнаўка, Пагарэлае і інш. У 1534 выхадцу з Масквы баярыну І.В.Ляцкаму падараваны сёлы Ажыча і Балоча. Сяло Баратычы не пазней пач. 16 ст. перайшло да паноў Рагозаў. У 1560 у С.в., як і ў інш. дзярж. маёнтках, праведзена зямельная рэформа, уведзены новыя адзінкі абкладання — *службы*. Паводле інвентара, складзенага з гэтай нагоды, у воласці (акрамя мястэчка і замка Свіслач) было 18 сёл з 484 дварамі, у якіх было намерана 137 службаў. У 1560 у асобны маёнтак вылучана сяло Багушэвічы, аддадзенае В.Рудкоўскаму. У багушэвіцкіх сялян узнік канфлікт з новым уласнікам, супраць якога яны з дапамогай жыхароў суседняга с. Задобрычы вялі ўзброеную барацьбу на працягу 1564—69. У 1563 полацкай шляхце ўзамен маёнткаў, занятых рас. войскамі, былі часова аддадзены са складу С.в. сёлы Гарадзец і Коўбча. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 тэр. С.в. на 3 ад р. Бярэзіны ўключана ў Менскі пав., рэшта — у Аршанскі пав. У 1566 свіслацкім намеснікам стаў М.Б.Гарабурда, які ў 1568 атрымаў ад вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста прывілей на падараванне яму воласці (у складзе 12 сёл) у прыватную ўласнасць. Дзярж. уласнасцю засталося толькі сяло Цэль, якое ўтварыла асобнае дробнае стараства. Гэты прывілей, аднак, па нейкіх прычынах не афішыраваўся, і Гарабурда да сваёй смерці ў 1586 карыстаўся тытулам свіслацкага намесніка (старасты). У далейшым С.в. засталася за яго нашчадкамі як прыватны маёнтак.

*Літ.*: Спірыдонаў М. Наданне Свіслацкай воласці Міхаілу Гарабурду: (Да праблемы скарачэння дзярж. уладанняў у Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVI стст.) // Штогоднік Ін-та гісторыі Нац. АН Беларусі, 1999. Мн., 1999.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Свіслацкі замак.** Існаваў у 12—17 ст. каля мяст. Свіслач Менскага пав. (цяпер вёска ў Асіповіцкім р-не). Гарадзішча «Замак», звязанае з гісторыяй Свіслачы, размешчана на мысе правага берага р. Бярэзіна, у якую справа ўпадае р. Свіслач. Археалагічныя матэрыялы сведчаць пра існаванне тут яшчэ ў раннім жалезным веку паселішча культуры штрыхаванай керамікі. На мяжы 11—12 ст. на яго месцы ўзнік феад. замак, што стаў цэнтрам *Свіслацкага княства* (пасля воласці). У сярэдзіне 17 ст. замкавая пляцоўка мела форму прамавугольніка, была аддзелена ад астатняга плато шырокім (каля 15 м) і дугападобным ровам і ўмацавана па краі земляным валам. Над узроўнем вады ў Свіслачы замчышча ўзвышалася на 12 м. Яго пляцоўка ў сярэдзіне 17 ст. мела памеры каля 72,8 x 63,5 м. Пазней, калі вал быў знівеліраваны, замкавая пляцоўка павялічылася, дасягнуўшы памераў 77 x 67 м (паводле П.А.Рапапорта) ці 70 x 70 м (паводле Э.М.Загарульскага). Л.Д.Побаль падае лічбу 80 x 75 м. У выніку праведзеных у 1962 Загарульскім раскопак выяўлена, што ў 1-й пал. 13 ст. замак быў спалены. Потым яго разам з мястэчкам разбурылі ў 1506 крымскія татары і ў 1535 рус. войскі. Ужо ў 1501 С.з. меў агнястрэльную зброю, у т.л. гарматы. Паводле плана С.з. (1647), зробленага ўладальнікам Свіслачы кн. Б.Радзівілам, у драўляным замку меліся 3 вежы, у т.л. ўязная брама, і 2 участкі сцен-гародняў даўжынёй 39 м і 35,8 м. 2 вежы (7 x 7 м кожная) стаялі з боку р. Свіслач, цераз якую быў наведзены мост. Прыблізна такія памеры мела і ўязная замкавая брама. На самым мысе С.з. размешчана пабудова ў форме прамавугольніка, да якой прымыкалі праслы замкавых сцен. Памеры будынка (каля 12,7 x 11,7 м) не дазваляюць лічыць яго 4-й вежай (відаць, гэта дом адміністратара). На другім плане Радзівіла, акрамя замка, пазначаны і ўчастак тэрыторыі паміж Бярэзінай і Свіслаччу. У месцы найб. блізкага працякання іх адна каля адной знаходзіліся земляны вал з брамай на ім і абарончы роў, які запаўняўся водамі рэк. Відаць, гэта была адна з гар. брам. Другая размяшчалася з боку моста цераз р. Свіслач. У час антыфеад. вайны 1648—51 паўстанцкі атрад палкоўніка Г.Бута колькасцю каля 1 тыс. чал. заняў у 1648 Свіслач. Паколькі Бут пасылаў частку людзей у Ігумен за порахам, можна меркаваць, што

**Свіслацкі замак.** Агульны выгляд у сярэдзіне 17 ст. Рэканструкцыя С.А.Сергачова.



захоплены цэйхгауз С.з. быў невялікі. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 без вял. намаганняў І.Залатарэнка захапіў Свіслач у вер. 1654. З таго часу ў дакументах звесткі пра С.з. больш не сустракаюцца.

**Свіслач** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Свіслацкага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ваўкавыскім пав., каля вытоку р. Свіслач (бас. Нёмана). Вядома з 1256, калі ў паходзе на яцвягаў галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васількі Раманавічаў, навагародскага кн. Рамана Данілавіча, ваўкавыскага кн. Глеба ўдзельнічаў і свіслацкі кн. Ізяслаў. Пасля велікакняжацкі маёнтак, з сярэдзіны 16 ст. прыватная ўласнаць. Належала князям Заслаўскім (з 1542), Хадкевічам (з 1564), Крышпінам-Кіршэнштэйнам (з 1666), Тышкевічам (2-я пал. 18 ст.—1831). У 1668 пабудаваны драўляны Троіцкі касцёл, пры якім дзейнічала парафіяльная школа. Існавала уніяцкая царква Анёла-ахоўніка. У 2-й пал. 18 ст. пабудаваны драўляны палац, гандлёвыя рады, у канцы 18 ст. ў С. адбываліся значныя кірмашы. В.Тышкевіч з 1780-х г. трымаў у С. аматарскі тэатр і капэлу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Орловский Е.Ф. Местечко Свислочь-Волковысская: (Ист. очерк). Гродно, 1895; Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану: Пер. з польск. Мн., 1997.

**Свіслач** (цяпер вёска ў Асіповіцкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., пры ўпадзенні р. Свіслач у Бярэзіну. У 11—13 ст. паселішча замкавага тыпу. У 14 ст. цэнтр *Свіслацкага княства*, пасля *Свіслацкай воласці*, з сярэдзіны 16 ст. ўласнасць Гарабурдаў. Каля мястэчка існаваў *Свіслацкі замак*. У 1506 разбурана крымскімі татарамі, у 1535 — маскоўскімі войскамі. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* паўстанцкі атрад палкоўніка Г.Бута колькасцю каля 1 тыс. чал. заняў у 1648 С. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у вер. 1654 С. захоплена ўкр. казацкім атрадам І.Залатарэнкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Свяжынскі** Уладзімір Мітрафанавіч (н. 28.4.1945, в. Новыя Турасы Ушацкага р-на), беларускі філолаг і літаратуразнавец, гісторык. Канд. філалагічных навук (1978). Скончыў БДУ (1971). З 1971 у Ін-це мовазнаўства, з 1993 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі. Вывучае мемуары 17 ст. як крыніцы па паліт., ваеннай і культ. гісторыі Беларусі, праблемы кірылічнай, лацінскай, арабскай палеаграфіі, этнакультурную і моўную сітуацыю ў ВКЛ. Адзін са складальнікаў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (вып. 2—4, 15—19, 25, 26, 1982—2006). Удзельнічаў у выданні кніг «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588» (1989), «Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 28» (2000).

*Тв.*: Слова Скарыны. Мн., 1984; «Гістарычныя запіскі» Ф.Еўлашоўскага. Мн., 1990; Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990 (з А.М.Булыкам, А.І.Жураўскім); Балты і балцкія гаворкі ў старажытнай Беларусі // Кантакты і дыялогі. 1999. № 2—3; Эвалюцыя моўнай свядомасці татараў-мусульман Беларусі ў XVI—XVII стст. // Вывучэнне і захаванне культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі. Мн., 1999; Лінгвістычныя праблемы падрыхтоўкі выдання ўнутраных вопісаў актаў Магілёўскага магістрата // Архіварыус. Мн., 2001. Вып. 1; Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага // METRICIANA. Мн., 2001. Т. 1; Аб статусе беларускай і ўкраінскай моў у часы Вялікага Княства Літоўскага // Там жа. 2003. Т. 2; Die Übersetzung der Bibel und ihre Quellen // Biblia Slavica. Serie III. Ostslavische Bibeln. Bd. 1. Skorina. Kommentare / Apostolos 1525. Padeborn etc., 2002.



**Свіслач** (бас. Нёмана). Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

**свята гарадское 16—18 ст.** Святочная гар. культура ВКЛ, адметная ад сял. свят, выпрацавалася пад уздзеяннем еўрапеізацыі гар. суполак. Яе асновай было фарміраванне механізма самакіравання гар. грамады пад аховай прывілеяў на *магдэбургскае права*. У 16—18 ст. сярод гар. свят вылучаліся афіцыйныя цырымоніі і *кірмашовае свята*. Да афіцыйных святочных цырымоній належалі ўрачыстыя сустрэчы вышэйшых дзярж. і духоўных асоб, у час якіх узводзіліся трыумфальныя аркі, адбываліся шэсці гар. цэхаў, служыліся святочныя набажэнствы ў касцёлах і цэрквах, даваліся тэатр. «імпрэзы», наладжваліся гарматныя салюты і феерверкі. Афіцыйнымі святамі былі асобныя цэхавыя шэсці, *кануны*, парады гар. апалчэння і стралковыя спаборніцтвы гараджан, рэліг. працэсіі з удзелам гараджан недухоўнага звання. Для ўсіх афіцыйных свят характэрна дэманстратыўнае падкрэсліванне сац. іерархіі, дзе індывідуум выступаў як член карпарацыі. Яны заклікаены зацвердзіць традыцыйны парадак карпаратыўнага ладу жыцця і адначасова былі сімвалам вольнасці горада і асабістых правоў яго жыхароў. Удзельнікамі афіцыйных гар. свят рамесныя цэхі, купецкія карпарацыі, святарства ўсіх хрысціянскіх канфесій, члены магістрата, вучні школ, студэнты калегіумаў, а з сярэдзіны 17 ст. яўрэйскія і татарскія абшчыны гараджан. У большасці каталіцкіх свят бралі ўдзел уніяцкія святары і вернікі. Такім чынам, удзельнікамі агульнагар. свят была значная частка насельніцтва. Кожны рамесны цэх удзельнічаў у цырымоніі ў строга заведзеным парадку, са сваімі атрыбутамі — харугваю (сцягам), бубнам (барабанам), халоднай і агнястрэльнай зброяй; члены цэха апраналіся ў асобае святочнае адзенне. Парушэнне цырыманіялу прыводзіла аж да судо-



вых працэсаў (напр., у Берасці ў 1624) і разглядалася самімі рамеснікамі як публічная абраза. Зах.-еўрапейскі цырыманіял афіцыйных гар. свят упершыню зафіксаваны ў Вільні ў канцы 15 ст. (закладка гар. муроў 23.4.1498), пашырыўся на Беларусі ў пач. 17 ст. (Нясвіж, 1617; Орша, 1623; Берасце, 1624) і праіснаваў амаль без змен да падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. Стылістыка гар. урачыстасцей арыентавалася ў асноўным на антычную спадчыну (шэсце праз трыумфальную арку і інш.). У бел. л-ры 17 ст. склаўся спец. жанр «прывітання». Калі-некалі парадак свята істотна мяняўся. У час сустрэчы жыхарамі Магілёва цара Пятра I у 1706 не праводзілася ўрачыстае шэсце карпарацый, не была ўзведзена трыумфальная арка з гербам як сімвал незалежнасці горада. Паводле слоў храніста, уся цырымонія звялася да таго, што магістрат з паклонамі паднёс цару на сярэбраным блюдзе вял. пірог. Па традыцыйным сцэнарыі адбылася ў 1780 сустрэча ў Полацку Кацярыны II: трыумфальная арка, музыкі, урачыстае шэсце цэхаў з удзелам святарства ўсіх канфесій («велічны маскарад», паводле слоў імператрыцы). Існаванне сінтэзаванай святочнай культуры было адметнай з'явай жыцця гар. абшчын.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Лотман Ю., Успенский Б. Новые аспекты изучения культуры Древней Руси // Вопр. лит. 1977. № 3; Котлярчук А.С. Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII века: официальные церемонии и крестьянская обрядность. СПб., 2001.

*Андрэй Катлярчук.*

**Святаслаў Іванавіч** (?—29.4.1386), вялікі князь смаленскі з 1358. Сын вял. князя смаленскага Івана Аляксандравіча. Праводзіў палітыку, накіраваную на захаванне незалежнасці *Смаленскага княства,* і ўвесь час быў вымушаны лавіраваць паміж Масквой і Вільняй. Спрабаваў вярнуць захопленыя вял. князем літоўскім Альгердам паволжскія землі (паход 1358 на Белую), але ў выніку страціў Мсціслаў з Пасожжам (1359) і быў вымушаны падпарадкаваць сваю дзейнасць інтарэсам ВКЛ. Дружына С.І. ў 1368 і 1370 прымала ўдзел у паходах Альгерда на Маскву. За парушэнне дагавора з Масквой у 1368 С.І. быў адлучаны мітрапалітам Алексіем ад царквы, што пацвердзіў у 1370 канстанцінопальскі патрыярх. У 1375 заключыў саюзны дагавор з Масквой і ўдзельнічаў у паходзе супраць Цверы. Вынікам гэтага было спусташэнне Альгердам у 1376 смаленскіх зямель. У пач. 1380-х г. С.І. каардынаваў сваю знешнюю палітыку з кн. *Андрэем Альгердавічам.* У 1386 разам з ім пачаў барацьбу супраць Вільні і спрабаваў вярнуць захопленыя ВКЛ паўн.-зах. воласці Смаленскага княства. Пасля няўдалай аблогі Віцебска і Оршы спрабаваў узяць Мсціслаў. 29 крас. пад сценамі горада адбылася бітва з падышоўшым войскам ВКЛ, у якой С.І. быў забіты (гл. *Мсціслаўская бітва 1386*).

*Літ.*: Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV столетия. Киев, 1895; Ластовский Г. Смоленск и Великое княжество Литовское в XIII—XVI вв. // Край Смоленский. 1993. № 7/8.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Свяцікас** (Svetikas) Эўгеніюс (н. 25.9.1957, г. Алітус, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1993). Скончыў Вільнюскі ун-т (1980). У 1980—87 навук. супрацоўнік Алітускага краязнаўчага музея, у 1987—94 выкладаў у школах Алітуса, адначасова ў 1991—92 гал. інспектар Інспекцыі культурнай спадчыны Алітускага пав., з 1995 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы ў Вільнюсе. У 1999—2003 чл. Дзярж. камісіі культурнай спадчыны пры Сейме Літоўскай Рэспублікі. Даследуе працэсы хрысціянізацыі ў ВКЛ у 14—17 ст. Аўтар кнігі «Алітускі могільнік: крыніцы хрысціянізацыі» («Alytaus kapinynas: christianizacijos šaltiniai», Вільнюс, 2003).

*Тв.*: Monetos XIV—XVII a. Lietuvos kapinynuose // Lietuvos archeologija. Vilnius, 1995. T. 11; Apkalai su širdies simboliu Lietuvoje kontrreformacijos laikotarpio pradžioje // Lituanistica. 1997. № 1; Šešiakampės žvaigždinės segės LDK ir jų analogijos Šv. Romos imperijoje // Там жа. 2003. № 3; Betliejaus žvaigždės segės Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje ir Livonijoje: insignijos ar devocionalijos? // Lietuvos istorijos metraštis, 2003 metai. Vilnius, 2004. T. 1.

**Свяцкі палац.** Пабудаваны ў 1779 архітэктарам Дж.*Сака* ў в. Свяцк Гарадзенскага пав. (цяпер вёска ў Гродзенскім р-не) у стылі барока для магнатаў Валовічаў. Мае рысы класіцызму. Складаецца з мураваных 2-павярховага будынка палаца і 2 пастаўленых перпендыкулярна да яго сіметрычных бакавых флігеляў, злучаных з ім паўцыркульнымі галерэямі ў выглядзе аркад. Флігелі (больш позняя забудова, у адным быў манеж) накрыты вальмавымі дахамі, аздоблены руставанымі лапаткамі. Палац, пастаўлены на ўзвышшы, накрыты мансардавым дахам, мае цокальны паверх, у цэнтры з боку двара — 4-калонны рызаліт з франтонам, пандус, шырокія ўсходы, а з боку парку — 5-гранны эркер з фігурным дахам. Планіроўка анфіладная (у 20 ст. зменена). У цэнтры — вестыбюль з 3-маршавай лесвіцай, на 2-м паверсе —



Свяцкі палац.

парадная 8-гранная зала з калонамі, аздобленая рэльефамі, ліштвамі дзвярэй, нішамі з камінамі і скульптурай, размалёўкай на сценах (рамантычныя пейзажы, антычныя статуі, вазы; мастакі Т.Манькоўскі, Ф.Смуглевіч; не збераглася). У будынку размешчаны санаторый.

***Уладзімір Чантурыя.***

**Себеж** (цяпер горад, цэнтр Себежскага р-на Пскоўскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад, цэнтр *Себежскай валасці*, на паўвостраве воз. Себежскага. Паводле некаторых звестак, існаваў



**Себеж**. Касцёл.

ужо ў часы вял. кн. Вітаўта (канец 14— пач. 15 ст.). Себежскі замак з драўляна-землянымі ўмацаваннямі пабудаваны ў чэрв.—ліп. 1535 маскоўскімі ваяводамі на тэрыторыі Себежскай вол. ВКЛ па загаду вял. княгіні маскоўскай Алены Глінскай. У гонар малалетняга Івана IV атрымаў назву Івангорад-на-Себежы (у далейшым проста С.). У пач. 1536 вытрымаў аблогу войска ВКЛ, па выніках перамір'я 1537 разам з Себежскай вол. адышоў да Вял. княства Маскоўскага. Адыгрываў прыкметную ролю ў *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Знішчаны пажарам у 1560. Вытрымаў аблогу войска ВКЛ у 1612. Паводле ўмоў *Дэулінскага перамір'я 1618* перададзены Рэчы Паспалітай. У 1623 атрымаў магдэбургскае права. Узяты рас. войскамі ў 1632, вернуты Рэчы Паспалітай згодна з умовамі *Палянаўскага перамір'я 1634*. З 1650 уладанне Радзівілаў. У 1654 заняты рас. войскамі. У 1661 мясцовыя жыхары здалі горад войску ВКЛ пад камандаваннем М.Паца. Згодна з умовамі *Андросаўскага перамір'я 1667* перайшоў пад уладу Расіі. У 1678 вернуты Рэчы Паспалітай, зноў ва ўласнасці Радзівілаў. Моцна пацярпеў у час *Паўночнай вайны 1700—21*, аднак да сярэдзіны 18 ст. гар. ўмацаванні былі аднаўлены. Практычна цалкам згарэў у выніку пажара 1762. Інвентар 1619 называе 9 гар. вуліц, 6 цэркваў і манастыр. Напрыканцы 17 ст. налічваў 300 дамоў, у 1755 — 140. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Псковские летописи. Вып. 1—2. М.; Л., 1941—55; Брэжго Б.Р. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Васіль Варонін.***

**Себежская воласць** (у 17—18 ст. таксама староства), адм.-тэр. адзінка ў полацка-пскоўскім паграніччы, у ваколіцах воз. Себежскага. Па словах паслоў ВКЛ на перагаворах у Маскве ў 1542, «волость Себежъ была изъ вековъ полотцкая тяглая». Прыналежнасць С.в. да Полацкай зямлі (намесніцтва, пасля ваяводства) у складзе ВКЛ пацвярджаецца крыніцамі пачынаючы з 15 ст. Пасля пабудовы ў 1535 маскоўскімі ваяводамі на тэрыторыі С.в. г. *Себеж* па выніках перамір'я 1537 воласць перайшла ў склад Вял. княства Маскоўскага. Аднак мяжа паміж С.в. і Полацкім ваяв. ВКЛ яшчэ доўгі час дакладна не была вызначана, у сувязі з чым пытанне аб яе дэмаркацыі неаднаразова ўздымалася на перагаворах паміж дзяржавамі. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у 1558 стала аб'ектам напада інфлянцкіх немцаў, а ў 1562 была разрабавана войскам ВКЛ. Паводле *Дэулінскага перамір'я 1618* перададзена Рэчы Паспалітай. У перыяд *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* пад кантролем рас. адміністрацыі і ў зоне актыўных ваенных дзеянняў. У выніку заключэння *Палянаўскага перамір'я 1634* перададзена Рэчы Паспалітай. У 1648 межавымі суддзямі Рэчы Паспалітай і Рас. дзяржавы было праведзена падрабязнае апісанне і ўдакладненне 100-мільнага ўчастка граніцы паміж дзяржавамі, у т.л. прылеглага да С.в. У 1634 К.Радзівіл прасіў сойм Рэчы Паспалітай перадаць яму С.в. на ленным праве, аднак безвынікова. У 1650 сын апошняга Януш атрымаў ад сойма С.в. на спадчынным праве ў якасці ўзнагароды за перамогу ў *Лоеўскай бітве 1649*. У 1654 занята рас. войскамі. У 1661 перайшла пад кантроль Рэчы Паспалітай. Згодна з умовамі *Андросаўскага перамір'я 1667* перададзена Расіі, аднак у 1678 вернута Рэчы Паспалітай, зноў належала Радзівілам. У выніку шлюбаў прадстаўніц гэтага роду С.в. трапіла да нойбургскіх князёў (Германія), у складзе *«Нойбургскіх маёнткаў«*. З 1-й пал. 18 ст. зноў у Радзівілаў. С.в. вылучалася адносна рэдкім насельніцтвам, сканцэнтраваным пераважна ў цэнтры і на Пд, а таксама ўздоўж рэк. У сацыяльнай структуры насельніцтва вельмі значную долю складалі казакі і панцырныя баяры, якія неслі ваенную і пагранічную службу. Себежскія казакі праявілі сябе яшчэ ў 1612, калі адбілі Завалочча ў А.Лісоўскага. Прывілеем 1625 кароль Жыгімонт III Ваза надаў себежскім казакам 120 валок зямлі і дазволіў мець уласны сцяг — белы крыж у чырвоным полі. У 17—18 ст. падзелена на войтаўствы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) тэрыторыя С.в. далучана да Рас. імперыі.

*Літ.*: Историко-юридические материалы. Вып. 3. Витебск, 1872; Псковские летописи. Вып. 1—2. М.; Л., 1941—55; Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Lwów; Warszawa, 1922; Яго ж. Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930; Шеломанова Н.Б. Себежская земля в XVI в.: (Ист.-географический обзор) // Археографический ежегодник за 1967 год. М., 1969.

***Васіль Варонін.***

**Северская зямля**, Север, Севершчына, гісторыка-геаграфічны рэгіён ва Усх. Еўропе. Сфарміравалася ў старaж.-рус. перыяд на частцы Чарнігаўскага княства, якая адпавядала арэалу рассялення севяран, але не ахоплівала землі севяран Пераяслаўскага княства. На Пн у вярхоўях р. Сож і Дзясна С.з. аддзялялася ад Смаленшчыны ляснымі масівамі. На З мяжой ёй служыў Дняпро. На Пд умоўная мяжа праходзіла ад р. Асцёр праз міжрэчча р. Сейм з аднаго боку і р. Сула, Псёл і Ворскла з другога. На У міжрэчча Дзясны і Верхняй Акі аддзяляла С.з. ад інш. часткі Чарнігаўскага княства. Северскімі гарадамі ў 14—17 ст. лічыліся Бранск, Гомель, Дрокаў, Курск, Мароўск, Мглін, Ноўгарад-Северскі, Почап, Старадуб, Трубчэўск, Пуціўль, Радагошч, Рыльск, Чарнігаў. Гіст. цэнтрам С.з. быў



Чарнігаў. Як назва пэўнай вобласці тэрмін «С.з.» ўпамінаецца з канца 14 ст. З пач. 13 ст. тэрыторыю С.з. пачалі закранаць літ. напады. Асабліва яны актывізаваліся пасля мангольскага нашэсця (значныя паходы ў 1258 і 1263). Але да 14 ст. тэрытарыяльных здабыткаў літ. князі ў С.з. не мелі. Усталяванне ўлады ВКЛ над С.з. адбылося пасля 1356, калі вял. князь літоўскі Альгерд пачаў валодаць Бранскам (да таго падпарадкаваным Смаленску) і, відаць, увайшоў у нейкае пагадненне з Ардой, паабяцаўшы па-ранейшаму сплачваць ёй даніну з тэрыторыі С.з. У канцы 14 ст. ў С.з. ўзніклі ўдзельныя княствы на чале з прадстаўнікамі дынастыі Гедзімінавічаў. Першым удзелам стала *Бранскае княства* Дзмітрыя Альгердавіча (упершыню ўпамінаецца ў 1372). Да 1379 Дзмітрый Альгердавіч быў пазбаўлены Бранска і атрымаў замест яго Трубчэўск (з 1377 быў часткай уладанняў кн. Андрэя Альгердавіча). У 1379 Дзмітрый Альгердавіч перайшоў да вял. маскоўскага кн. Дзмітрыя Іванавіча і ўдзельнічаў у Кулікоўскай бітве 1380. Праз 8 год вярнуўся ў ВКЛ, загінуў у бітве на Ворскле 1399. Трубчэўск, вернуты пасля 1388 Дзмітрыю Альгердавічу, замацаваўся за яго нашчадкамі — князямі *Трубяцкімі*. Бранскам у канцы 14 ст. валодаў прадстаўнік дынастыі Рурыкавічаў кн. Раман Міхайлавіч. Пасля яго смерці ў 1401 Бранск апынуўся ў валоданні кн. Свідрыгайлы Альгердавіча (да 1408). Ноўгарадам-Северскім у 1380-я г. валодаў Карыбут (Дзмітрый) Альгердавіч. У 1393 пасля канфлікту з Вітаўтам ён страціў свой удзел, які быў перададзены Фёдару Любартавічу. Чарнігаў належаў кн. Канстанціну Альгердавічу да яго смерці паміж 1386 і 1393. Да 1388 узнікла *Старадубскае княства* Патрыкея Нарымонтавіча, пасля гэта было ўладанне яго сыноў. Паступова ўдзельныя княствы С.з. пераўтвараліся ў спадчынныя ўладанні. Аднак вял. сыход северскіх князёў на чале са Свідрыгайлам Альгердавічам у 1408 у Маскву спыніў гэты працэс. Пасля 1408 адбылося пераразмеркаванне северскіх уладанняў. Старадуб і, магчыма, Бранск атрымаў Жыгімонт Кейстутавіч (удзел існаваў да 1432 — часу пераходу князя на велікакняжацкі прастол), а пасля вяртання Свідрыгайлы (1409) яму дасталіся Чарнігаў і Ноўгарад-Северскі. Свідрыгайла працягваў валодаць Чарнігаўскім княствам і пасля заняцця велікакняжацкага прастола (1430—32), а ў час яго барацьбы з Жыгімонтам уся С.з. прыняла яго бок. Пасля паражэння Свідрыгайлы С.з. апынулася ў дамене вял. князя літоўскага (спачатку Жыгімонта, а з 1440 Казіміра IV). Часова сістэма ўдзелаў у С.з. была скасавана. З сярэдзіны 15 ст. княжацкія ўладанні пачалі аднаўляцца. Удзелы былі ўтвораны Казімірам IV для збеглых з Вял. княства Маскоўскага маскоўскіх удзельных князёў. Кароткі час у 1446—47 існавала княства Васіля Яраславіча Серпухаўскага ў складзе г. Бранск, Старадуб, Гомель, Мсціслаў і інш., якія зноў вярнуўся на радзіму. У 1454 у С.з. ўтварыліся Старадубскае княства і *Ноўгарад-Северскае княства*. У 1483 яшчэ адзін маскоўскі ўцякач кн. Васіль Міхайлавіч Вярэйскі атрымаў у С.з. Любеч і некалькі валасцей. Стварэнне недалёка ад межаў Вял. княства Маскоўскага тэрытарыяльных утварэнняў на чале з ворагамі маскоўскага правіцеля (Ноўгарад-Северскае і Старадубскае княствы) праследавала мэту з боку Казіміра IV забяспечыць абарону граніц з разлікам на магчымасць захопу маскоўскага прастола сваімі прыхільнікамі. Пры гэтым шэраг гарадоў заставаўся пад кіраваннем велікакняжацкіх намеснікаў. Паветы Чарнігаўскі (да 1496), Пуціўльскі (1470—1500), Радагошчанскі, Бранскі (1440—65, 1486—1500) ахаплівалі северскія ўдзельныя княствы і такім чынам кантралявалі іх. У час праўлення Аляксандра Казіміравіча ўдзельныя княствы на тэрыторыі С.з. атрымалі значную самастойнасць, а іх князі пачалі схіляцца ў бок Масквы. У выніку змовы князі Сямён Іванавіч Мажайскі (Старадубскае княства) і Васіль Шамячыч (Ноўгарад-Северскае княства) у 1500 перайшлі са сваімі і захопленымі землямі на маскоўскую службу, а князі Трубяцкія вымушаны былі пад ваенным ціскам таксама прысягнуць вял. маскоўскаму кн. Івану III. Велікакняжацкія гарады С.з. (Бранск, Радагошч, Почап, Любеч і Пуціўль) былі захоплены сілаю. Паводле 6-гадовага перамір'я 1503 уся С.з. адышла ў склад Вял. княства Маскоўскага. Толькі Любеч у 1508 і Гомель у 1537 вернуты ВКЛ. У складзе Рас. дзяржавы С.з. знаходзілася да 1618, калі паводле Дэулінскага перамір'я яна амаль цалкам трапіла пад уладу Рэчы Паспалітай. Пры маскоўскім кіраванні больш распаўсюджаным было ўжыванне тэрміна «северскія гарады». Яны складалі значную частку сістэмы абароны Рас. дзяржавы ад Крымскага ханства і Рэчы Паспалітай. У пач. 17 ст. С.з. стала апорай антыўрадавага руху, які прывёў да ўлады ў Маскве Лжэдзмітрыя I. Самазванец, між іншым, абяцаў перадаць С.з. Юрыю Мнішаку. У 1618 северскія гарады былі падзелены паміж ВКЛ (Гомель, Старадуб, Почап, з 1646 Любеч і інш.) і Польскім каралеўствам (Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі і інш.). Бранск, Рыльск, Пуціўль заставаліся расійскімі (Трубчэўск з 1634). Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 і «Вечнага міру» 1686 С.з. зноў цалкам апынулася ў складзе Расіі. У гэты час ужо не існавала звязанага рэгіёна. Поўнасцю ўжыванне назвы «С.з.» знікла ў сярэдзіне 18 ст.

*Літ.*: Голубовский П.В. История Северской земли до половины XIV ст. Киев, 1881; Багалей Д.И. История Северской земли до половины XIV ст. Киев, 1882; Андріяшев О. Нарис історії колонізації Сіверської землі до початку XVI віку // Записки історично-філологічного відділу ВУАН. Киев, 1928. Кн. 20; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987; Русина О. Сіверська земля у складі Великого князівства Литовського. Київ, 1998.

*Віктар Цемушаў.*

**сейм**, гл. *Сойм*.

**сеймік**, гл. *Соймік*.

**семінарыя** (ад лац. seminarium рассаднік), 1) агульнаадукацыйная навучальная ўстанова для падрыхтоўкі духавенства. Узнікненне С. звязана з Трыдэнцкім саборам (1545—63), на якім было вырашана арганізаваць шэраг спец. навучальных устаноў для падрыхтоўкі добраадукаваных асоб. Каталіцкія С. звычайна адкрываліся мясц. біскупамі. Выкладчыкамі ў іх былі прадстаўнікі якога-небудзь манаскага ордэна. У ВКЛ існавалі *Віленская духоўная семінарыя* (1582), *Варніская духоўная семінарыя* (1623), С. у Янаве (1648) і Берасці (каля 1726, пры парафіі Св. Крыжа; рыхтавалі святароў для

Луцкай епархіі), у Краславе (1755, рыхтавала святароў для Інфлянцкай і Смаленскай епархій). Папская С. (алюмнат) для пашырэння каталіцтва ў некаталіцкіх краінах заснавана ў 1583 пры *Віленскай акадэміі*. Уніяцкая С. заснавана ў 1739 у мяст. Свержань (гл. *Свержанская духоўная семінарыя*). Былі 2 правасл. С. — *Магілёўская духоўная семінарыя* (1756) і *Слуцкая духоўная семінарыя* (1785).

2) Настаўніцкая С. — навучальная ўстанова для падрыхтоўкі настаўнікаў для пачатковых школ. Адкрыта ў 1775 у Вільні па ініцыятыве біскупа І.*Масальскага*. Была разлічана на 50 юнакоў, мела 3 класы. Спыніла дзейнасць у 1782. У 1786 пры Віленскай акадэміі адкрыта 4-класная настаўніцкая С., у 1833 пераведзена ў Віцебск.

**Семяновіч** Казімір (каля 1600—пасля 1651), інжынер і тэарэтык артылерыі, мысліцель-гуманіст. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Удзельнік *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1632—34*. З 1645 у Нідэрландах, ваяваў у войску прынца Аранскага, у 1646 адкліканы з Нідэрландаў, прызначаны інжынерам, з 1648 нам. начальніка артылерыі Польскага каралеўства. У 1650 у Амстэрдаме выдаў на лацінскай мове трактат «Вялікае мастацтва артылерыі, частка першая» («Artis magnae artilleriae pars prima»), у якім апісаў канструкцыі і выкарыстанне гармат і ракет, тэхналогію вытворчасці пораху і інш. матэрыялаў для артылерыі, а таксама ўпершыню апісаў шматступеньчатую ракету (з адпаведнымі чарцяжамі). Трактат перакладзены на французскую, нямецкую, англійскую, галандскую, дацкую і інш. мовы; паўтара стагоддзя быў адной з найважнейшых у Еўропе навук. прац па артылерыі. С. падрыхтаваў да друку і 2-ю частку сваёй працы, аднак выдаць не паспеў (пазней рукапіс згубіўся). С. прытрымліваўся гуманістычнага светапогляду: войны ён лічыў найвялікшым няшчасцем для чалавецтва.

*Літ.*: Ивашкевичюс А. Казимир Семенович и его книга «Великое искусство артиллерии. Часть первая». Вильнюс, 1971; Цярохін С.Ф. Трактат аб артылерыі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. № 3; Бельскі А.М., Ткачоў М.А. Вялікае мастацтва артылерыі: Казімір Семяновіч. Мн., 1992.



К.**Семяновіч**. Вялікае мастацтва артылерыі, частка першая. Амстэрдам. 1650. Тытульны ліст.

**Семянчук** Альбіна Аляксандраўна (н. 25.1.1963, пас. Савецкі Марыйскай АССР, цяпер Рэспубліка Марый Эл), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1997). Скончыла Гродзенскі ун-т (1988), з 1996 працуе ў ім, з 1998 дацэнт. Вывучае гісторыю і крыніцазнаўства ВКЛ, польскія хронікі і бел.-літ. летапісы 15—16 ст.

*Тв.*: Мацей Стрыйкоўскі ў Вялікім княстве Літоўскім // Спадчына. 1995. № 1; Марцін і Яхім Бельскія — гісторыкі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага // Там жа. 1996. № 1; Польскія хронікі 2-й паловы XVI ст. як крыніцы па этнакультурнай і рэлігійнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага // Наш радавод. Гродна, 1996. Кн. 7; Фольклорные традиции Великого княжества Литовского в польских хрониках XVI в. // Senosios raštijos ir tautosakos saveika: rulturine Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes patirtis. Vilnius, 1998; Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000.

**сенажатнае**, грашовая павіннасць сялян ВКЛ з уладання сенажацямі. Напр., у Мілевіцкім фальварку (Слонімскі пав.) у 1782 складала ад 25 грошаў да 1 злотага 8 грошаў з 1 морга сенажаці ў залежнасці ад якасці лугу.

**Сенат** (лац. senatus ад senex стары), дзяржаўная рада манарха і вышэйшая палата *сойма* Рэчы Паспалітай. У канцы 15—пач. 16 ст. каралеўская рада Польшчыператварылася ў С. — орган, які быў пасрэднікам паміж манархам і прадстаўнікамі шляхецкага стану. З 1505 для прыняцця соймавых ухвал патрабавалася агульная згода караля, С. і земскіх паслоў сойма (гл. *Радам-*



Зала **Сената** ў Каралеўскім замку на Вавелі ў Кракаве.



Зала **Сената** ў Каралеўскім замку ў Варшаве.

*ская канстытуцыя 1505*). У час пасяджэнняў сойма С. функцыянаваў як адна з яго палат. Каронны С. канчаткова склаўся ў часы праўлення Жыгімонта I Старога. У яго ўваходзілі 2 арцыбіскупы, 7 біскупаў, 15 ваявод, 17 «большых» і 49 «меншых» кашталянаў, 5 вышэйшых міністраў. З 2-й пал. 16 ст. пануючая ў Польскім каралеўстве, а пазней у Рэчы Паспалітай канстытуцыйная дактрына прадугледжвала, што сойм складалі 3 «станы саймуючыя»: кароль (вял. князь), С. і *Пасольская Ізба*. Кароль і С. сталі састаўнымі часткамі шляхецкага парламента. На Люблінскім сойме 1569 пасля інкарпарацыі ўкр. ваяводстваў ВКЛ і Падляшша ў склад Кароны (Польскага каралеўства), заключэння уніі паміж ВКЛ і Польшчай і інтэграцыі парламенцкіх інстытутаў Каралеўскай Прусіі ў склад новаўтворанага С. ўвайшлі: ад Польскага каралеўства — усе ранейшыя сенатары, ад Каралеўскай Прусіі — 2 біскупы, 3 ваяводы, 3 кашталяны, ад інкарпараваных Каронай абшараў — 2 біскупы (луцкі, кіеўскі), 4 ваяводы (кіеўскі, валынскі, брацлаўскі, падляшскі) і 4 кашталяны (кіеўскі, луцкі, брацлаўскі, падляшскі). З членаў *Рады Вялікага княства Літоўскага* сенатарамі Рэчы Паспалітай сталі 2 біскупы (віленскі, жамойцкі), 9 ваявод (віленскі, троцкі, смаленскі, полацкі, навагародскі, віцебскі, берасцейскі, мсціслаўскі, менскі), староста жамойцкі, 10 кашталянаў (віленскі, троцкі, жамойцкі, смаленскі, полацкі, навагародскі, віцебскі, берасцейскі, мсціслаўскі, менскі), 5 вышэйшых міністраў (маршалак найвышэйшы, канцлер, падканцлер, падскарбі земскі, маршалак надворны). Прадстаўнікі асобных княжацкіх і панскіх родаў ВКЛ, якія персанальна запрашаліся на пасяджэнні Рады ВКЛ паводле старадаўняга права, у т.л. князь слуцкі, маршалкі дворскія (гаспадарскія), якія таксама былі раднымі панамі, засталіся па-за С., што выклікала іх працяглую, але безвыніковую барацьбу за права знаходжання ў вышэйшай палаце супольнага вальнага сойма. На Люблінскім сойме ставілася, але не было вырашана станоўча і пытанне аб павелічэнні колькасці сенатараў ад ВКЛ шляхам утварэння Гарадзенскага і Ковенскага ваяводстваў з адпаведнымі пасадамі ваявод і кашталянаў. Вял. і польны гетманы ВКЛ і падскарбі надворны ВКЛ, таксама як і каронныя, не ўвайшлі ў С. па пасадзе, але паколькі яны спалучалі свае пасады з ваяводскімі ці кашталянскімі, то былі там прадстаўлены. З 1569 дарадчы голас у С. мелі каронныя рэферэндары — духоўны і свецкі, рэферэндары ВКЛ атрымалі такое права ў 1635. У 1635 пацверджана месца ў С. канцлера і падканцлера ВКЛ. Ухвалены Люблінскім соймам «Парадак Рады Кароннай і Літоўскай» называе ў складзе С. 140 сенатарскіх годнасцей, з іх 27 прадстаўлялі ВКЛ (19,3%). З далучэннем у канцы 16 ст. да Рэчы Паспалітай *Інфлянтаў* колькасць сенатарскіх годнасцей вырасла да 147. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34 месцы ў С. атрымалі ваявода і кашталян чарнігаўскія, а з 1638 — біскуп смаленскі. У выніку страт тэрыторый у Інфлянтах на карысць Швецыі колькасць сенатарскіх годнасцей у 2-й пал. 17 ст. паменшылася да 146. У 1768 у склад С. ўвайшлі вял. і польныя гетманы Польшчы і ВКЛ, а ў 1775 — падскарбіі надворныя. Канстытуцыйная рэформа Чатырохгадовага сойма 1788—92 прадугледжвала існаванне С. як вы-



Пасяджэнне **Сената** ў палацы Сапегаў у Гародні. Малюнак 1-й пал. 18 ст.



шэйшай палаты сойма ў складзе 102 асоб (ваяводы і кашталяны, без біскупаў і міністраў) з агульнай колькасці С. ў 132 асобы. На Гарадзенскім сойме 1793, каб павялічыць у С. прадстаўніцтва ВКЛ, прэрагатывы і тытул кашталянаў нададзены павятовым маршалкам ВКЛ (ашмянскаму, лідскаму, вількамірскаму, браслаўскаму, гарадзенскаму, ковенскаму, упіцкаму, старадубскаму, слонімскаму, ваўкавыскаму, аршанскаму, пінскаму, мазырскаму, рэчыцкаму), аднак захаваўся прынцып іх выбарнасці на павятовых сойміках. Колькасць кашталянаў ВКЛ вырасла да 24 чал. У канцы 1793 Гарадзейскі сойм зацвердзіў новы адм.-тэр. падзел ВКЛ, які прадугледжваў існаванне 8 ваяводстваў: Віленскага, Троцкага, Жамойцкага, Навагародскага, Мерацкага, Берасцейскага, Браслаўскага і Гарадзенскага, кожнае з якіх мела 2 сенатараў: ваяводу і кашталяна. Адначасова былі скасаваны ўсе кашталяніі, створаныя Таргавіцкай канфедэрацыяй. За ваяводамі і кашталянамі скасаваных ваяводстваў, а таксама за павятовымі маршалкамі, якія раней набылі годнасць кашталянаў, тытулы і месца ў С. былі захаваны да смерці. Неаднаразова ставілася пытанне пра ўключэнне ў склад С. уніяцкіх і правасл. іерархаў. Пры заключэнні *Берасцейскай уніі 1596* абмяркоўвалася прапанова аб уваходжанні ў С. 8 уніяцкіх епіскапаў і мітрапаліта. У час паўстання Б.Хмяльніцкага ставілася пытанне пра ўваходжанне ў С. правасл. мітрапаліта, а пры заключэнні *Гадзяцкага дагавора 1658* — правасл. епіскапаў і мітрапаліта. Толькі ў 1790 Чатырохгадовы сойм даў месца ў С. кіеўскаму уніяцкаму мітрапаліту.

У С. існавала дакладна вызначаная іерархія сенатарскіх годнасцей. Ранг першага сенатара меў арцыбіскуп гнезненскі — прымас Рэчы Паспалітай, другога — арцыбіскуп львоўскі, далей займалі месцы біскупы, пасля — уніяцкі мітрапаліт. Першым сярод свецкіх сенатараў быў кашталян кракаўскі, далей займалі месцы ваяводы. Кашталяны віленскі і троцкі, а таксама староста жамойцкі займалі высокія месцы сярод ваявод. Наступную групу складалі кашталяны «большыя», пасля «меншыя». Міністры Кароны і ВКЛ сядзелі асобна, звычайна насупраць караля. Члены С. мелі магчымасць кар'ернага росту да больш высокіх сенатарскіх годнасцей, якія пажыццёва даваліся каралём. У заканадаўстве Рэчы Паспалітай адсутнічала вызначэнне С. як соймавага стану, яго месца ў дачыненні з каралём і Польскай Ізбой. Нешматлікія соймавыя канстытуцыі, прысвечаныя С., разглядалі яго найперш як адм. орган, які дзейнічае ў сувязі з соймам і яму падпарадкаваны. У час пасяджэнняў сенатары не галасавалі, а выказвалі свае меркаванні (вотум) па вынесеных на разгляд пытаннях паводле старшынства месцаў. Пасля абмеркавання кароль ці па яго даручэнні канцлер фармуляваў канклюзію (агульнае канчатковае меркаванне) па дадзеным пытанні. Яна не абапіралася на аднадумнасць, але амаль заўжды супадала з меркаваннем большасці, да якой звычайна далучаўся кароль. Паводле соймавай канстытуцыі 1633 за 5 дзён да заканчэння сойма соймавыя паслы павінны былі падаць у С. канстытуцыі, якія атрымалі згоду Пасольскай Ізбы, пасля чаго 3 соймавыя станы іх канчаткова зацвярджалі. С. амаль ніколі не збіраўся ў поўным складзе. У 1-й пал. 17 ст. на соймы прыязджала ад 30 да 43 сенатараў, пад канец панавання Жыгімонта III Вазы выказвалі меркаванне (ватавалі) ад 3,5 да 13% ад агульнай колькасці сенатараў. Сенатары ВКЛ звычайна прыязджалі на соймы ў больш поўным складзе і выяўлялі значна большую актыўнасць, чым каронныя. Сенатары, як каралеўская рада, таксама рэдка збіраліся ў поўным складзе. На спатканні з каралём па-за соймам звычайна прыязджала толькі вузкае кола дастойнікаў, відных дзярж. дзеячаў і дарадцаў, з думкай якіх манарх лічыўся. Такія сустрэчы найчасцей былі абумоўлены неадкладнымі дзярж. праблемамі ці ўрачыстасцямі каралеўскай сям'і. Некаторыя справы манарх вырашаў праз перапіску з міністрамі і вышэйшымі сенатарамі (напр., узгадненне даты і месца правядзення чарговага сойма). Чатырохгадовы сойм даў С. права часовага вета на прыняцце законаў па паліт., цывільных і крымінальных пытаннях.

Сталым соймавым органам, утвораным для ўзаемнай працы з каралём па кіраванні дзяржавай, былі сенатары-рэзідэнты (senatus consulta). Гэты інстытут быў прадугледжаны *Генрыкавымі артыкуламі* 1574, аднак на практыцы ён узнік пасля *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09*. 16 сенатараў-рэзідэнтаў выбіраліся соймам з сенатараў на 2 гады, 4 з іх павінны былі стала знаходзіцца побач з каралём на працягу паўгода да змены, выконваючы функцыі сумеснай польска-літвінскай прыбочнай рады пры каралю для парад і кантролю за яго дзейнасцю. Сенатары-рэзідэнты былі абавязаны даваць справаздачу сойму аб сваёй дзейнасці. З 1641 колькасць сенатараў-рэзідэнтаў павялічана да 28. У 1717 соймавая канстытуцыя абавязала караля выконваць указанні сенатараў-рэзідэнтаў. На практыцы гэтая пастанова не мела вял. значэння, бо праз некаторы час інстытут сенатараў-рэзідэнтаў быў адсунуты на другі план шырэйшым прадстаўніцтвам сенатараў — радамі С. (senatus consilia, senatus consilium).

Рада С. складалася з прысутных пры двары сенатараў-міністраў, сенатараў-рэзідэнтаў, а таксама з блізкіх да караля сенатараў, якіх ён спецыяльна запрашаў. Склад радаў С. не быў сталы, таму манарх меў на іх значны ўплыў. Абавязкам рады С. была распрацоўка ўказанняў каралю па найважнейшых дзярж. справах паміж соймамі. Яе ўказанні мелі характар ухвал, прымаліся большасцю галасоў, з 1641 запісваліся, падпісваліся і абвяшчаліся на пачатку працы сойма пасля выбараў маршалка Пасольскай Ізбы. Пасля заканчэння соймавых пасяджэнняў маглі быць скліканы пленарныя рады С. Чым радзей соймы канчаліся ўхваленнем канстытуцый, тым часцей збіраліся рады С. У 1697—1733 іх было 74, у т.л. 20 у 1697—99. У часы Аўгуста II у Гародні адбылося 4,7% рад С. Збіраліся і асобныя літвінскія рады С., на якіх прысутнічалі толькі сенатары ад ВКЛ. На думку заканадаўцаў, рады С. павінны былі абмяжоўваць імкненне манарха да самаўладных рашэнняў, але на практыцы яны часта прымалі пажаданыя для караля ўхвалы. Сенатары ўдзельнічалі ў пасяджэннях *соймавага суда*.

*Літ.*: Czapliński W. Senat za Władysława IV // Studia historyczne ku czci Stanisława Kutrzeby. Kraków, 1938. T. 1; Czapliński W., Filipczak-Kocur A. Udział senatorów w pracach sejmowych za Zygmunta III i Władysława IV // Przegląd Historyczny.



1978. № 4; Filipczak-Kocur A. Senatorowie i posłowie na sejmie «pacyfikacyjnym» w 1589 roku // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1982. Z. 2; Kaczorowski W. Senatorowie na sejmie konwokacyjnym i elekcyjnym 1632 roku // Там жа. 1983. Z. 1; Zakrzewski A.B. Paradoksy unifikacji prawa i ustroju Wielkiego Księstwa Litewskiego i Korony XVI—XVIII w. // Там жа. 1999. Z. 1—2; Wasilewski T. Litewskie rady senatu w XVII w. // Acta Universitatis Wratislaviensis. Historia. Wrocław, 1988. T. 66; Historia Sejmu polskiego. T. 1. Warszawa, 1984; Markiewicz M. Rady senatorskie Augusta II (1697—1733). Wrocław etc., 1988; Senat w Polsce: Dzieje i teraźniejszość. Sesja naukowa. Warszawa, 1993; Dzieje Sejmu polskiego. 2 wyd. Warszawa, 1997; Góralski Z. Urzędy i godności w dawnej Polsce. 2 wyd. Warszawa, 1998; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia ustroju i prawa polskiego. 4 wyd. Warszawa, 1998.

***Андрэй Радаман.***

**сеншчына**, грашовая павіннасць сялян ВКЛ за нарыхтоўку сена. Напр., у вёсках Копыскага графства ў 17—18 ст. складала 1 тымф з 1 дыма.

**Серакоўскі** Кароль (1752—5.1.1820), ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, адзін з кіраўнікоў *паўстання 1794*. Генерал-маёр (1794). З 1766 вучыўся ў Варшаве ў корпусе кадэтаў, дзе пасля служыў (інструктар, выкладчык алгебры, цывільнай архітэктуры і ваеннай фартыфікацыі), атрымаў ранг маёра-брыгадзіра. З 1776 выкладаў арыфметыку і геаметрыю ў Школе артылерыі і інжынераў. Удзельнічаў у дэмаркацыі граніц з Расіяй і Аўстрыяй. З 1789 камандзір корпуса каронных інжынераў, палкоўнік. Удзельнічаў у вайне 1792, узнагароджаны ордэнам «Віртуці мілітары». У ліп.—жн. на чале 4-тысячнага корпуса прайшоў рэйдам ад Высокага праз Шарашова, Пружаны, Ружаны да Слоніма. Удзельнік *Крупчыцкага бою 1794* і бою пад Берасцем. У арміі Каралеўства Польскага камандзір корпуса артылерыі і інжынераў.

**Серапіён** Палхоўскі (?—лют. 1704), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Да 1690-х г. архімандрыт слуцкі. З 1691 выконваў абавязкі епіскапа беларускага. З 1697 епіскап беларускі (мсціслаўскі, аршанскі і магілёўскі). У 1698 пасвячоны ў сан епіскапа. У 1699 кароль Аўгуст II скасаваў свой ранейшы прывілей на епіскапства С., аднак пад націскам Расіі не стаў настойваць на яго выкананні. Спачатку С. кіраваў епархіяй са Слуцка, у снеж. 1699 пераехаў у Магілёў, дзе і памёр (цела згарэла непахаваным пры пажары драўлянай Спаскай царквы).

*Літ.*: Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Кузменка М. Магілёўская епархія ад часоў далучэння да Расіі і да 1918 г. // Магілёўская даўніна. 1996—97. № 4—5; Агееў А.Р., Марзалюк І.А, Пушкін І.А Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах. Магілёў, 1997.

***Ігар Пушкін.***

**серпанціна**, від палявой гарматы, найбольш пашыранай у 15—16 ст. і прызначанай для стральбы металічнымі ядрамі. Характарызавалася малым калібрам (да 30 мм), доўгім ствалом (да 38 калібраў), канал якога меў аднолькавы дыяметр, і вял. скарастрэльнасцю (да 80 стрэлаў за дзень). У ВКЛ вядома з пач. 16 ст., да 1550-х г. была адной з самых папулярных гармат, саступала толькі фальканетам. Тэрмінам «С.» ў гэты час называлі і гарматы, што зараджаліся з тыльнай часткі пры дапамозе заменных парахавых камор, незалежна ад калібру, даўжыні ствала і матэрыялу, з якога выраблялася ядро. С. магла страляць і карцеччу, якая ўжо на пач. 16 ст. вядома як «штурмавыя гуркі».

*Літ.*: Архив Юго-Западной России. Ч. 7, т. 1; ч. 8, т. 5. Киев, 1886—1907; Nowak T. Z dziejów techniki w dawnej Polsce. Warszawa, 1965; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Blizkiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982.

***Юрась Бохан.***

**сёстры міласэрнасці**, гл. *Шарыткі*.

**Сільвестр** Бялькевіч (у свеце Стафан Андрэевіч; ?—1567), дзеяч паваслаўнай царквы ВКЛ. Каралеўскі скарбнік пры Жыгімонце II Аўгусце і ключнік у Вільні. Пасля смерці настаяцеля Віленскага Троіцкага манастыра Аляксія выпрасіў у вял. князя гэты манастыр у кіраванне. Яшчэ пры жыцці мітрапаліта Макарыя II атрымаў каралеўскую грамату (10.7.1551) на кіеўскую мітраполію, захаваўшы і Троіцкі манастыр. У 1556—67 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Быў абвешчаны «нарачоным мітрапалітам» яшчэ ў свецкім стане і толькі праз паўгода ў вер. 1556 прыняў манаства і адразу заняў кафедру. У 1558 склікаў у Вільні сабор (магчыма, для барацьбы з Рэфармацыяй ці для выпраўлення ўнутраных царк. неўпарадкаванасцей). Самачынна забраў у сваё кіраванне шмат манастыроў (у т.л. Кіева-Мікалаеўскі Пустынскі), змагаўся за Луцкую епіскапскую кафедру, браў хабар за прызначэнні на царк. пасады. Не меў ні духоўнай, ні свецкай адукацыі. Яго беспрынцыпнасць, карысталюбства, хцівасць, рэліг. абыякавасць спрыялі маральнаму разбэшчанню вярхоў правасл. царквы ВКЛ.

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990; Карташев А.В. Очерки по истории русской церкви. Т. 1. М., 1991; Макарий. История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

***Валянціна Цяплова.***

**Сільвестр** Косаў (канец 16 ст., маёнтак Жаробычы, Віцебскае ваяв.—23.4.1657), дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай, пісьменнік-палеміст. Са шляхецкага роду. Скончыў Віленскую брацкую школу, Люблінскі езуіцкі калегіум і Замасцянскую акадэмію. Выкладаў рыторыку ў Вільні і Львове. З 1631 праф. філасофіі ў Кіева-Пячэрскай школе. У 1631—32 разам з мітрапалітам Пятром Магілаю праводзіў рэформу навучальных устаноў Кіева. Паводле прапановы С. ў 1632 школа Кіеўскага правасл. брацтва і Кіева-Пячэрская школа аб'яднаны, у выніку ўтвораны Кіева-Магілянскі калегіум. З 1633 С. — архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры, з 1634 епіскап магілёўскі, аршанскі і мсціслаўскі; канфліктаваў з


ПАТЕРІКОN
ABO
ZYWOTY SS.
OYCOW PIECZARSKICH.
NESTORA ZAKONNIKA
PRZEZ
KOSSOWA
W KIIOWIE.

**Сільвестр** Косаў. Патэрыкон. Кіеў. 1635. Тытульны ліст.

полацкім і віцебскім уніяцкім архіепіскапам Антоніем Сяляваю. У 1646 заснаваў у Магілёве жаночы манастыр пры царкве св. Мікалая. У 1647—57 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (у межах Рэчы Паспалітай), экзарх канстанцінопальскага патрыяршага прастола. У 1647 блаславіў Б.Хмяльніцкага на барацьбу з палякамі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* выступаў супраць падначалення Кіеўскай мітраполіі Маскоўскаму патрыярхату і супраць далучэння ўкр. і бел. зямель да Расіі. Аўтар шэрагу публіцыстычных і багаслоўскіх твораў: «Экзэгезіс» (1635, Вільня, прапанаваў новую сістэму адукацыі, абараняў правасл. святароў ад абвінавачванняў у пратэстантызме); «Патэрыкон, або Зборнік жыццяў святых пячорскіх айцоў» (1635, перавыд. ў 1661 і 1678, у ім выказаў погляд на складанае пытанне аб часе хрышчэння бел. і ўсх.-слав. зямель, падаў храналогію ўсх.-слав. мітрапалітаў); прамовы ў празаічным і вершаваным варыянтах на смерць свайго папярэдніка па магілёўскай кафедры Іосіфа Бабрыковіча-Капета-Аняхожскага (1635); «Дыдаскалія, або Навука для святароў» (1637) і інш.

*Літ.*: Саверчанка І.В. Сільвестр Косаў // Бел. гіст. часопіс. 1995. № 3.

***Іван Саверчанка.***

**Сімяон**, дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. У 1459—81 архіепіскап полацкі. Адыгрываў вял. ролю ў грамадска-паліт. жыцці горада. Падтрымліваў зносіны з рыжскімі гар. уладамі. У 1481—88 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Інтранізацыю С. ў Навагародку правялі 2 экзархі канстанцінопальскага патрыярха, якія прыехалі сюды спецыяльна. У 1487 С. пасвяціў епіскапа ўладзімірскага і берасцейскага Васіяна. Пры С. правасл. цэрквам і манастырам быў зроблены шэраг значных падараванняў: гарадзенскімі мяшчанамі Каложскаму манастыру, кн. Іванам Юр'евічам Мсціслаўскім Ануфрыеўскаму манастыру, Іванам Стратовічам Лаўрышаўскаму манастыру і інш.

***Васіль Варонін.***

**Сімяон Полацкі** (у свеце Пятроўскі-Сітняновіч Самуіл Гаўрылавіч, паводле некаторых звестак — Емяльянавіч; 1629, г. Полацк—25.8.1680), беларускі паэт, драматург, перакладчык, педагог, царкоўны і грамадскі дзеяч. Скончыў Кіева-Магілянскі калегіум (каля 1650), вучыўся ў Віленскай акадэміі (да 1653). З сярэдзіны 1650-х г. да 1664 настаўнік брацкай школы Полацкага Богаяўленскага манастыра. У 1656 прыняў манаства пад імем Сімяон. Будучы манахам ордэна *базыльян* (нават у маскоўскі перыяд жыцця падпісваў кнігі як «полацкі іераманах ордэна св. Васілія Вялікага»), прапагандаваў ідэю ўз'яднання хрысціян пад духоўнай эгідай рымскага папы і пад дзярж. патранатам маскоўскага цара. У полацкі перыяд творчасці пісаў на бел., польскай і лацінскай мовах, раннія вершы («Акафіст», «Канон», 1648) маюць рэліг.-культавае прызначэнне. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* сімпатызаваў Расіі; вітаў цара Аляксея Міхайлавіча пры ўзяцці Полацка дэкламацыяй «Метры», а таксама прысвяціў шэраг віншаванняў з выпадку ўзяцця пэўных гарадоў: «Вершы на шчаслівы зварот літасцівага цара з-пад Рыгі», «Віншаванне з выпадку ўзяцця Дорпата», «Віншаванне з выпадку абрання на польскае каралеўства» і інш. Тады ж напісаў шэраг паліт.-сатырычных твораў, у якіх выкрываў захопніцкія войны шведскага караля Карла X Густава: «Кароль шведскі шукае сваіх афіцэраў…», «Адчай шведскага караля…», а таксама іранічнае «Віншаванне… Амфінагену Крыжаноўскаму, вандруючаму псеўдаепіскапу».



**Сімяон Полацкі**. Гравюра 19 ст. паводле старажытнага партрэта.

З 1664 жыў у Маскве. Арганізаваў «лацінскую» школу пры Заіконаспаскім манастыры, заснаваў незалежную ад патрыяршай цэнзуры Верхнюю друкарню, быў першым прыдворным паэтам рас. цароў, выхавацелем дзяцей Аляксея Міхайлавіча. Найб. падтрымкай карыстаўся ў цара Фёдара Аляксеевіча [1676—82]. Прыхільнік асветнага абсалютызму, ён быў у цэнтры дзярж. і рэліг. праблем Маскоўскай дзяржавы. Крытыкаваў стараабраднікаў, падтрымліваў рэформы патрыярха Нікана. Пазней выступаў з асуджэннем Нікана на Вял. саборы 1666—67, дзе быў сакратаром-перакладчыкам александрыйскага і антыяхійскага патрыярхаў, а таксама мітрапаліта газскага Паісія Лігарыда. Вынікам тэолага-арганізацыйных спрэчак стаў трактат «Жазло праўлення» (1667). Прапаведніцкая дзейнасць С.П. адлюстравана ў 2 зборніках яго пропаведзей «Абед душэўны» (1675, выд. 1681) і «Вячэра душэўная» (1676, выд. 1683). Аснову літ. спадчыны С.П. складаюць 2 вял. зборнікі, падрыхтаваныя ў канцы 1670-х г., але выдадзеныя пасмяротна: «Вертаград мнагацветны» і «Рыфмалагіён, ці Вершаслоў» (1678, выдадзеныя ў 1681). Яшчэ пры жыцці яго першы зборнік быў ацэнены як энцыклапедыя, з якой чэрпалі веды па хрысціянскай сімволіцы, гісторыі, антычнай міфалогіі, тэалогіі. У другім зборніку панегірычнай накіраванасці змешчаны драматычныя творы «Камедыя прытчы пра блуднага сына…» і «Пра Навуходаносара цара…», якія ставіліся ў прыдворных тэатрах Крамля і с. Праабражэнскае. Як перакладчык С.П. пазнаёміў чытача з многімі шыракавядомымі творамі тагачаснасці: «Казанне пра Магамета», «Тастамент, або Запавет Васіля, цара грэчаскага», «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» і інш. Сваю прыватную б-ку С.П. завяшчаў Полацкаму Богаяўленскаму, Маскоўскаму Заіконаспаскаму, Кіеўскім Пячэрскаму і Брацкаму манастырам. У Маскве да грамадзянскай і рэліг. дзейнасці С.П. і яго творчай спадчыны ставіліся неадназначна. З асуджэннем асобных твораў С.П. выступілі вядомыя «грэкафілы» Епіфаній Славінецкі і Яўфімій Чудаўскі. Большасць твораў С.П. не перавыдавалася, творы на польскай і лацінскай мовах не перакладзены на

беларускую. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 123, 129.

*Тв.*: Избр. соч. М.; Л., 1953; Вирши. Мн., 1990.

*Літ.*: Татарский И. Симеон Полоцкий: (Его жизнь и деятельность). М., 1886; Прашковіч М.І. Сімяон Полацкі // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1; Грынчык М.М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973; Панченко А.М. Русская стихотворная культура XVII в. Л., 1973; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.

***Уладзімір Кароткі.***

**сінагога** (ад грэч. synagōgē сход, месца сходу), культавы будынак у іудаізме. Узніклі ў 1-й пал. 1-га тыс. да н.э. ў Палесціне і Егіпце. Пасля разбурэння рымлянамі Іерусалімскага храма (70 н.э.) і пашырэння дыяспары будаваліся ўсюды, дзе жылі яўрэі. У адрозненне ад храма лічыцца не домам Бога, а домам малітваў, сходаў і вучэння. У С. праводзяцца набажэнствы, вывучаюцца Біблія і Талмуд, спраўляюцца рэліг. абрады, абмяркоўваюцца штодзённыя справы абшчыны. Паводле яўр. рэліг. правіл, С. павінна быць самым высокім будынкам у горадзе. Аднак мясц. ўлады патрабавалі, каб С. не была вышэйшай за цэрквы і мячэці, таму на С. ўстанаўлівалі шост, які ўзвышаўся над навакольнымі будынкамі, а для павелічэння вышыні залы падлогу рабілі ніжэй узроўню зямлі. Звонку на С. прымацоўвалі Маген-Давід (шасціканцовую зорку) і табліцы з рэліг. запаветамі. Унутры С. на сценах вывешвалі табліцы з малітоўнымі тэкстамі, біблейскімі і талмудычнымі выслоўямі, упрыгожвалі іх геаметрычным ці раслінным арнаментам, сімвалічнымі выявамі жывёл (2 мядзведзі з вінаграднай гронкай — добрая вестка, паўлін — вечнае жыццё сярод райскай прыроды, лань — сімвал кахання, алень — сімвал дабра і інш.). Выявы чалавека забараняліся. Прамавугольная зала мела вокны для сузірання неба, гал. сцяна арыентавана на Іерусалім (у еўрапейскіх, у т.л. бел., яўрэяў на У). Каля гэтай сцяны ў спец. шафе аронкодэш («святы каўчэг») знаходзіўся скрутак Торы, а ў цэнтры залы — кафедра (біма; магла быць і каля аронкодэша). Памяшканне для жанчын размяшчалася ззаду мужчынскага або на балконе. У Беларусі С. вядомы з канца 14 ст. (у Берасці і Гародні). З 16 ст. іх стала значна больш; будаваліся мураваныя і драўляныя. Адзінага патрабавання да архітэктурнага стылю С. не было. Характэрнай асаблівасцю С. Беларусі быў чатырохсхільны дах. Выкарыстоўваліся элементы архітэктуры рэнесансу, *барока*, *класіцызму* і інш. С. часам называлі і іудзейскую абшчыну вернікаў. З 2-й пал. 16 да канца 18 ст. ў ВКЛ С. таксама называліся адм.-тэр. саюзы *кагалаў*: Берасцейская, Гарадзенская, Пінская, Полацкая, Слуцкая, Беларуская (ва ўсх. Беларусі) кагальныя акругі, якія з'яўляліся і судова-апеляцыйнымі інстанцыямі. Іл. гл. ў т. 1, с. 65, 118.



**Сінагога** ў Слоніме. 1642.

*Літ.*: Бершадский С.А. Литовские евреи. СПб., 1883; Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Т. 1. Могилев-на-Днепре, 1882; Анищенко Е.К. Черта оседлости: (Бел. синагога в царствование Екатерины II). Мн., 1998; Синагоги Беларуси: Еврейский календарь, 1576, 1995—1996. Мн., 1995; Синагоги Беларуси: Еврейский календарь, 5757, 1996—1997. Мн., 1996; Синагоги Беларуси: Еврейский календарь, 5758, 1997—1998. Мн., 1997.

***Васіль Бацяеў, Іна Герасімава, Уладзімір Пярвышын.***

**Сінія Воды**, Синяя Вада, Сінюха, левы прыток Паўд. Буга ў Кіраваградскай і Мікалаеўскай абл. Украіны. На беразе С.В. адбылася *бітва каля Сініх Вод 1362*.

**сінодзік**, памяннік, суботнік, у праваслаўнай і грэка-каталіцкай цэрквах спіс асоб для памінання «за спачын душы». Бярэ пачатак ад сінадзікона — царк. службы, якая склалася ў Візантыі ў памяць перамогі царквы над абразаборцамі ў 843. У час службы чыталіся імёны руплівых хрысціян (ім абвяшчалася «вечная памяць») і ворагаў царквы («анафема»). Праз сербскую і балгарскую цэрквы служба ў канцы 14 ст. трапіла на Русь, дзе атрымала назву «Чын праваслаўя». С. называўся таксама памяннік (запісы памерлых дзеля памяці) і суботнік (памінанне «за спачын душы» ў пэўныя дні сядмічнага гадавога цыкла, часцей па суботах). Памінанне было звязана з укладамі (ахвяраваннямі) зямельных уладанняў ці грошай на карысць царквы. Часта гэта спалучалася з адмысловай перадачай царкве Евангелля. Вядомы памінальны запіс 1-й пал. 14 ст. на *Друцкім Евангеллі* — укладу ў Друцкую Багародзіцкую царкву. Памінальныя запісы сталі зводзіцца ў кнігі прыкладна ў канцы 15 ст. Самым старажытным з вядомых С. ВКЛ з'яўляецца С. Кіева-Пячэрскага манастыра (1483—1526). Вял. цікавасць маюць С. Гарадзішчанскага манастыра на Валыні (1484) і Любецкі (1647), у якім шмат старадж. звестак. З 15 ст. паходзіць С. роду Сангушкаў. Надзвычай вял. каштоўнасць мае Супрасльскі С. (1500), у якім прадстаўлена шмат значных праваслаўных родаў ВКЛ: Хадкевічы, Солтаны, Алелькавічы, Пузыны, Сегені, Палубінскія, Крошынскія, Астрожскія, Багавіціны, Масальскія, Сангушкі і інш. У С. Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра (1517) акрамя магнацкіх родаў унесены роды мясц. шляхты: Быкоўскія, Ванькевічы, Звяры, Ілллічы, Есьманы, Катовічы і інш. У 17—18 ст. С. атрымалі вял. пашырэнне і вяліся ў многіх манастырах і цэрквах: Слуцкай Варварынскай царкве (1684), Дарагічынскім Свята-Троіцкім манастыры (1729), Дзятлаўскім Праабражэнскім манастыры, (1753), Грозаўскім Іаана-Багаслоўскім манастыры (1759), Слуцкай Міхайлаўскай царкве (каля 1761) і інш. Ва ўсе С. дапісваліся асобы для памінання і пасля стварэння С., часам на працягу стагоддзяў. С. — важная крыніца па генеалогіі і анамастыцы.

*Публ.*: Субботник или поминник Супрасльского монастыря // Археографический сб. документов, относящихся к истории Сев.-Зап. Руси. Вильна, 1870. Т. 9; Сангушковский поминник XV в. // Гильтебрандт П. Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вильна, 1871. Вып. 1.

*Літ.*: Зотов Р.В. О черниговских князьях по Любецкому синодику и о Черниговском княжестве в татарское время. СПб., 1892; Де Витте Е.И. Комментарии к древнейшим памятникам Киево-Печерской Лавры и Киево-Златоверхого Ми-

хайловского монастыря // Чтения в ист. о-ве Нестора-летописца. Киев, 1911—14. Кн. 22—24; Е.Н. Старый синодик Супрасльского монастыря // Гродненские епархиальные ведомости. 1904. № 27.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**«Сінопсіс»** (ад грэч. synopsis агляд), 1) гісторыка-палітычны твор, выдадзены друкарняй Святадухаўскага брацтва ў Вільні ў 1632. Выданне прымеркавана да сойма 1632, апісвае гіст., царк.-рэліг. і паліт. падзеі ў стараж.-рус. дзяржаве і ў ВКЛ з міфічных часоў да 1632. У 1632 брацтва выдала «Дадатак да «Сінопсіса» з новымі матэрыяламі па гісторыі царк. уніі, Святадухаўскага брацтва, правасл. царквы канца 16—пач. 17 ст.

2) Гіст. твор, выдадзены ў друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры ў 1674. Не раз быў перадрукаваны ў 17—18 ст. У ім апісаны гіст. сувязі ўсх.-слав. народаў, іх супольная барацьба супраць ворагаў, абгрунтавана неабходнасць уз'яднання Украіны з Расіяй. У «С.» выкарыстаны рус. летапісы, хронікі М.Стрыйкоўскага, Ф.Сафановіча і інш. гіст. крыніцы.

*Літ.*: Пештич С.Л. «Синопсис» как историческое произведение // Тр. Отдела древнерусской литературы. Л., 1958. Т. 15.

***Георгій Галенчанка.***

**Сінчук** Іван Іванавіч (н. 8.3.1956, г. Кобрын), беларускі гісторык і нумізмат. Скончыў БДУ (1981). У 1985—91 археолаг НДІ «Белспецпраектрэстаўрацыя», з 1995 супрацоўнічае з Ін-там археалогіі і этналогіі Польскай АН. У 1995—98 выкладчык ВНУ, з 1999 супрацоўнічае з Нац. музеем Літвы. Даследуе гісторыю грашовага абарачэння, тэхніку манетнай справы 9—20 ст., гісторыю матэрыяльнай культуры 16—20 ст., праблемы этнічнай антрапанімікі Беларусі. Даследаваў архітэктурна-археал. помнікі на тэр. Мазыра, Магілёва, Быхава, Нясвіжа, Кобрына. Адзін з аўтараў дапаможніка «Некаторыя пытанні вывучэння гісторыі, эканамічнай тэорыі і культуралогіі ў ВНУ» (1997). Выканаў н.-д. праграмы «Тэхніка манетнай справы 17 ст.» і «Анамастыка беларускай эліты» (Інтэрнет).

*Тв.*: Петраграфічнае вывучэнне археалагічнай керамікі з раскопак у Магілёве і Быхаве // З глыбі вякоў: Наш край: Гіст.-культ. зб. Мн., 1992 (з Т.Ляўковай); Торуньские орты: метрология и техника изготовления // Тр. Гос. ист. музея. М., 1992. Вып. 80; Дэнарыі Вялікага княства Літоўскага з каменных магільнікаў Вензаўшчына і Куклі // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1995. № 3; Falszerstwa tymfów Iana Kazimierza // Falszerstwa i naśladownictwa monet: XI Ogólnopolska Sesja Numizmatyczna w Nowej Soli. Poznań, 1998.

***Міхаіл Стралец.***

**Сірвідас** Канстанцінас (Шырвідас, Сірвід, Шырвід; Sirvydas, Širvydas, Sirwid, Syrwit, Szyrwid; паміж 1578 і 1581, в. Сірвіды Вількамірскага



К.**Сірвідас**. Невядомы мастак. 17 ст.



DICTIONARIVM
TRIVM LINGVARVM,
In vsum Studiosæ Iuuentutis,
AVCTORE
CONSTANTINO SZYRWID
è Societate Iesv.

Cum Superiorum permissu editum.
Tertia editio recognita & aucta.
VILNÆ,
Typis Academicis Societatis Iesv.
Anno Domini M. DC. XLII.

К.**Сірвідас**. Слоўнік трох моў. Вільня. 1642. Тытульны ліст.



PUNKTY
KAZAN
OD
ADUENTU
AŻ DOPOSTV.
Litewskim ięzykiem, y Polskim nápisáne.
Przez
W.X. CONSTANTEGO SZYRWIDA,
Theologa Societatis IESV.
Z Dozwoleniem Stárszych wydáne.
w WILNIE,
W Drukárni Akádemiey Societatis IESV, Roku M DC XXIX.

К.**Сірвідас**. Пункты казанняў. Ч. 1. Вільня. 1629. Тытульны ліст.

пав.—23.8.1631), мовавед, педагог. Магістр філасофіі і вольных навук (1631). З 1598 чл. ордэна езуітаў. Вучыўся ў Пултуску (1603—06) і Віленскай акадэміі (1606—10). У 1613—25 (з перапынкамі) выкладаў у Віленскай акадэміі Свяшчэннае Пісанне. Склаў польска-лацінска-літоўскі «Слоўнік трох моў» («Dictionarium trium linguarum», Вільня, каля 1620; 5 выд. 1713; першы слоўнік літ. мовы). Гэта праца адыграла значную ролю ў працэсе ўнармавання літ. мовы. Аўтар першай арыгінальнай кнігі на літ. мове — зборніка пропаведзяў з паралельнымі перакладамі на польскую мову «Пункты казанняў» («Punkty kazań», ч. 1—2, Вільня, 1629—44). Працы С. адметныя чысцінёй і багаццем мовы, значнай колькасцю сінонімаў, неалагізмаў.

**Сітнаўскі замак.** Існаваў у 16 ст. на паўд.-зах. беразе воз. Мітна каля вытокаў р. Палата. Пабудаваны ў 1563 з дрэва на штучнай земляной выспе, умацаванай драўлянымі канструкцыямі. Трапецападобную форму замка вызначала канфігурацыя мыса, утворанага берагам возера і лукавінай ракі. Быў умацаваны драўлянымі абарончымі сценамі-гароднямі з 4 вуглавымі чацверыковымі 3-яруснымі вежамі (на паўкруглых у плане асновах), накрытымі двухсхільнымі дахамі. Праезд у замак размяшчаўся ў сцяне, звернутай у бок перашыйка паміж ра-




**Сітнаўскі замак**. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

кой і возерам. 1-павярховая драўляная забудова размяшчалася ў цэнтры замка, свабодная прастора ўздоўж сцен прызначалася для манеўру войск. Разбураны войскам ВКЛ у 1566, потым адбудаваны і зноў знішчаны пры штурме ў час Інфлянцкай вайны 1558—82. Вядомы паводле гравюры з малюнка С.*Пахалавіцкага*.

***Юрый Якімовіч.***

**«Сказанне брані венецыян супраць турэцкага цара»**, твор беларускай літаратуры пач. 16 ст. Складзена каля 1520-х г., відаць, каб далучыць Рас. дзяржаву да антытурэцкага саюза. Захавалася ў спісе канца 16—пач. 17 ст. са збору П.І.Саваітава (цяпер у Рас. дзярж. б-цы ў Маскве). Падзяляецца на 3 часткі. 1-я — уводзіны публіцыстычнага характару, 2-я — выклад гісторыі туркаў, іх заваёў ад 1-га султана Асмана да пач. 16 ст. (пераклад з лацінскай мовы, як сказана ва ўводзінах); усяго названа 13 турэцкіх «цароў». 3-я частка — публіцыстычнае пасляслоўе, дзе выкладзены думкі пра захопніцкія планы туркаў. Твор — першае ўсх.-слав. сачыненне па гісторыі туркаў.

*Літ.*: Казакова Н.А. Новый памятник турецкой темы в русской литературе XVI в. // Памятники культуры: Новые открытия, 1974. М., 1975.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Сказанне пра віленскіх мучанікаў Іаана, Антонія, Яўстафія»**, «Жыціе віленскіх (літоўскіх) мучанікаў», помнік беларускай перакладной агіяграфічнай літаратуры 15 ст. Напісана ў Візантыі ў 3-й чвэрці 14 ст. спачатку, мабыць, па-грэчаску, пасля перакладзена на царк.-слав. мову. У жыціі коратка выкладзена гісторыя пра *Трох віленскіх мучанікаў* з «Літоўскай зямлі», якія перайшлі ў хрысціянства, сталі гарачымі прыхільнікамі новай веры і дачасна скончылі жыццё пакутніцкай смерцю: паводле загаду князя іх павесілі. У аснову твора, відаць, пакладзены сапраўдны гіст. факт, але ён апісаны вельмі сцісла, даволі трафарэтна і схематычна. У жыцці мала гіст. рэалій, канкрэтных бытавых дэталей, жыццёвай праўды. Толькі ў спісах усх.-слав. паходжання згадваецца кн. Альгерд, адзначаецца, што падзеі адбываліся ў Вільні і падаюцца язычніцкія імёны герояў — Кругле́ц, Няжыла, Кумец. «Сказанне...» бытавала ў розных зборніках, унесена ў «Вялікія Мінеі Чэцці» мітрапаліта Макарыя (16 ст.), аднак бел.-літ. летапісы і хронікі гісторыю пра 3 віленскіх мучанікаў не ведаюць. Самыя стараж. спісы жыція — Віленскі і Бялградскі (15 ст.).

*Літ.*: Сперанский М.Н. Сербское житие литовских мучеников. М., 1909.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Сказанне пра Сівілу-прарочыцу»**, помнік перакладной беларускай літаратуры. Змешчана ў рукапісным зборніку 16 ст., які належаў бібліятэцы Красінскіх у Варшаве. На старабел. мову з чэшскай перакладзены ў 15—пач. 16 ст. (ужываюцца царкоўнаславянізмы, паланізмы і чэхізмы). Уключае некалькі біблейскіх і апакрыфічных апавяданняў. Пачынаецца сюжэтам пра царыцу краіны Савы (паводле падання, была на Пд Аравіі), якая атаясамліваецца з Сівілай — адной з вандроўных варажбітак у Стараж. Грэцыі, пра яе знаёмства з біблейскім царом Саламонам. Далей змешчаны аб'яднаныя ў адно цэлае прароцтвы Сівілы Саўскай пра нараджэнне і вучэнне Хрыста, пашырэнне хрысціянства, з'яўленне антыхрыста, другі прыход Хрыста і канец свету.

*Літ.*: Карский Е.Ф. Западнорусское сказание о Сивилле пророчице по рукописи XVI в. // Карский Е.Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962.

***Уладзімір Свяжынскі.***

**скамарохі**, народныя акцёры. Выступалі як музыкі, спевакі, выканаўцы сцэнак, дрэсіроўшчыкі звяроў, акрабаты, лялечнікі і інш. Генетычна мастацтва С. звязана з язычніцтвам. Тэрмін «С.» паявіўся ва ўсх. славян у балгарскіх перакладах з грэчаскай мовы ў 8—9 ст. На Беларусі выявы С. зафіксаваны ў археалагічных знаходках 12 ст. з Навагародка (вухавёртка з фігурай музыкі) і Ваўкавыска (шахматная фігурка ў выглядзе барабаншчыка). Захваліся выявы С. у Аршанскім Евангеллі 13 ст., на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу 15 ст., упамінаецца ў пропаведзях Кірылы Тураўскага 12 ст. (першае ўпамінанне на Беларусі тэрміна «С.») і творах пазнейшых аўтараў. Вядомы аселыя і вандроўныя С. Аселыя стала жылі ў гарадах і мястэчках, часта мелі зямельныя надзелы і былі цесна звязаны з пэўнай гульнёвай нар. традыцыяй, удзельнічалі ў каляндарных і сямейных святах і абрадах (каляды, русаллі, вяселлі) і тым самым спрыялі развіццю іх тэатральна-гульнёвага пачатку. Вандроўныя С. не былі звязаны з якой-небудзь рэгіянальнай традыцыяй. На Беларусі былі вядомы С.-музыкі, мядзведнікі, бахары (апавядальнікі баек), штукары (гімнасты, ілюзіяністы), лялечнікі і інш. Існавалі спец. вучэльні-школы, найб. вядомая з іх *«Смаргонская акадэмія»*. У параўнанні з Маскоўскай дзяржавай, дзе С. зазналі ўціск з боку царк. і свецкіх улад і нават забарону дзейнасці (1648 і 1657), на Бе-



ларусі яны мелі адносна больш спрыяльныя ўмовы для свайго мастацтва і дажылі да пач. 20 ст.

**скарб**, 1) дзяржаўная ўстанова ВКЛ у 15—18 ст., якая адказвала за эканамічнае і фінансавае кіраванне. Мела ўласны штат, куды ўваходзілі *падскарбі* земскі, *скарбны*, скарбныя пісары і дваране.

2) Сховішча дзярж. даходаў ВКЛ: даніны, чыншу, дзякла, мезлева, асадных пенязяў, судовых пошлін, якія паступалі да вял. князя (віны, перасуды), сярэбшчыны і інш. У С. зберагаліся таксама дзярж. рэгаліі («клейноты і аздобы»), арыгіналы агульназемскіх і абласных прывілеяў, міжнар. дагавораў і інш. Да 2-й пал. 17 ст. на захоўванні ў С. знаходзіліся арыгіналы кніг Метрыкі ВКЛ. С. быў і цэнтр. арсеналам ВКЛ.

*Літ.*: Любавский М.К. Литовско-русский сейм. М.,1900; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Filipczak-Kocur F. Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587—1648. Wrocław, 1994.

***Алесь Груша.***

**скарбнік**, гл. *Скарбны.*

**«Скарбніца грамат»**, «Скарбніца грамат папскіх, імператарскіх, каралеўскіх, княжацкіх, нацыянальных ухвал, пастаноў розных улад і ўрадаў, якія служаць крытычнаму высвятленню гісторыі Літвы, Літоўскай Русі і суседніх краін» («Skarbiec dyplomatów papiezkich, cesarskich, królewskich, książecych, uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi litewskiej i ościennych im krajów»), зборнік гістарычных крыніц па гісторыі Літвы і ВКЛ са старажытных часоў да Люблінскай уніі 1569. Складзены І.М.*Даніловічам* на польскай мове, выдадзены пасмяротна Я.Сідаровічам пры ўдзеле М.*Круповіча* ў 2 тамах у Вільні ў 1860—62. У прадмове Сідаровіч ахарактарызаваў змест выдання, працу Даніловіча над зборнікам, змясціў біяграфію Даніловіча і спіс яго прац. Ва ўступе Даніловіч даў нарыс найдаўнейшых звестак пра стараж. балтаў і літоўцаў, у якім прывёў паведамленні Герадота, Піфея, Дыядора Сіцылійскага, Страбона, Пампонія Мелы, Плінія Старэйшага, Тацыта, Пталамея, Аміяна Марцэліна, Іардана і інш. аўтараў, зрабіў спробу атаясаміць старaж. народы з балтамі і славянамі.

У асн. частцы зборніка змешчаны 2383 дакументы з 824 да 1569 г., у асноўным у выглядзе рэгестаў — кароткага пераказу зместу, некаторыя надрукаваны цалкам (большасць у перакладзе на польскую мову). Сярод змешчаных дакументаў лісты і граматы рымскіх пап, імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі, каралёў, вял. князёў літоўскіх Міндоўга, Гедзіміна, Альгерда, Ягайлы, Вітаўта, Свідрыгайлы, Жыгімонта Кейстутавіча, Казіміра Ягелончыка, Аляксандра, Жыгімонта Старога, Жыгімонта Аўгуста, князёў Карыбута, Скіргайлы, Аляксандра Уладзіміравіча і інш., вял. магістраў, магістраў, комтураў і інш. службовых асоб Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў. Сярод матэрыялаў зборніка пераважаюць дакументы паліт. характару, дыпламатычная перапіска, ёсць даравальныя граматы, граматы гарадам на магдэбургскае права, агульназемскія прывілеі, мірныя дагаворы, акты дзярж. уній ВКЛ і Польшчы, асобныя паведамленні з летапісаў. Дакументы змешчаны ў храналагічным парадку. Пасля кожнага дакумента паказана месца яго зберагання, наяўнасць арыгінала, копій, месца ранейшых публікацый ці ўпамінання, некаторыя дакументы забяспечаны вял. каментарыямі археаграфічнага і гіст. зместу (апісаны матэрыял, наяўнасць пячатак, асаблівасці датавання, знаёмства з дакументам ранейшых гісторыкаў і г.д.). Дакументы паходзяць з дзярж. архіваў Вільні, Кёнігсберга, Кіева, Масквы, С.-Пецярбурга (у т.л. з Метрыкі ВКЛ), з прыватных збораў, узяты з ранейшых публікацый. Паказальнікі адсутнічаюць. Зборнік захоўвае навук. значэнне, бо некаторыя дакументы загінулі або не перавыдадзены.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 59—62.

***Валерый Пазднякоў.***

**скарбны**, скарбнік, службовая асоба ў ВКЛ у 15—18 ст. С. ВКЛ — памочнік *падскарбія* земскага. 1-ы вядомы С. — Сенька, упамінаецца ў 1452 (або ў 1467 ці 1482). С. былі таксама ў ваяводствах і паветах, вялі перапіску па фінансавых пытаннях, складалі інвентары ўладанняў, якія падлягалі абкладанню падаткамі.

*Літ.*: Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. T. 11. Kórnik, 1994.

***Алесь Груша.***

**Скарбовая камісія абодвух народаў**, цэнтральны калегіяльны орган дзяржаўнай улады Рэчы Паспалітай у галіне фінансаў і эканомікі. Створана 1.2.1792 *Чатырохгадовым соймам 1788—92* замест скарбовых камісій Кароны Польскай і ВКЛ (гл. *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага*). Складалася з 2 падскарбіяў, 16 камісараў, 8 паслоў ад шляхты, 2 сенатараў, 6 адвакатаў ад гарадоў —усе ў роўным прадстаўніцтве ад Кароны Польскай і ВКЛ. Члены камісіі выбіраліся соймам на 2 гады з правам перавыбару. Старшыні — вял. падскарбі ВКЛ Л.Тышкевіч і надворны падскарбі каронны А.Дзяконскі. Падпарадкоўвалася *Стражы правоў*. Наглядала над фінансамі дзяржавы, манетнай справай, унутраным і знешнім гандлем, фабрыкамі. Судзіла справы аб парушэнні цэласнасці скарбу, фальшываманецтве, гандлёвых спрэчках з замежнымі купцамі, злоўжываннях чыноўнікаў. Фінансавала і наглядала за экстраардынарнымі праектамі: будаўніцтвам Мухавецкага канала, забеспячэннем соллю. Значныя сродкі асігнавала на абслугоўванне прыдворнай кліентуры: утрыманне 7 батальёнаў стральцоў, стварэнне абознай касы караля, на выдаткі новапрызначаным галоўнакамандуючым войскамі Кароны Польскай і ВКЛ. Скасавана 18.8.1792 *Таргавіцкай канфедэрацыяй* з аднаўленнем асобных скарбовых камісій для Кароны Польскай і ВКЛ, якія падпарадкаваны *Гарадзенскім соймам 1793* Пастаяннай Радзе.

***Яўген Анішчанка.***

**Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага**, Эканамічная рада скарбу Вялікага княства Літоўскага, цэнтральны калегіяльны орган улады ВКЛ па кіраванні фінансамі і дзяржаўным скарбам. Створана пастановай каранацыйнага сойма 16.5.1764 на ўзор падобнай камісіі Кароны Польскай з мэтай абмежавання ўлады вял. і надворнага падскарбі-



яў, а таксама для лепшага кіравання фінансамі і прымнажэння дзярж. даходаў. Дзейнічала ў Гародні з 1.1.1765. Старшынствавалі па чарзе вял. падскарбі ВКЛ М.Бжастоўскі і надворны падскарбі ВКЛ А.*Тызенгаўз*. У складзе камісіі 2 сенатары (кашталяны троцкі Т.Агінскі і смаленскі Т.Бучынскі), 7 камісараў ад шляхты (А.Тызенгаўз, Г.Аскерка, С.Алендскі, Я.Н.Гараін, Т.Юндзіл, М.Вазгірд, З.Віславух). Падпарадкоўвалася сойму. Дзейнічала праз бюро з 12 службоўцаў. Распараджалася мытнымі каморамі, поштай, гандлёвымі шляхамі, рачнымі перавозкамі, зборам пагалоўнага (з яўрэяў) і падымнага падаткаў, падаткаў з бровараў, наглядала за аднастайнасцю мераў і вагаў. У 1765—69 праводзіла люстрацыю каралеўшчын разам з рэвізіяй правоў на іх трыманне, займалася вызначэннем кварты са старастваў і размежаваннем зямель. Для выканання ўласных пастаноў мела вайсковую каманду або патрабавала дапамогі ад гетманаў. Сесіі камісіі праходзілі ў Гародні двойчы на год па 6 тыдняў. Да 1780 камісіяй бескантрольна распараджаўся каралеўскі фаварыт Тызенгаўз, які меў больш як на 800 тыс. злотых доўгу, што патраціў на ўтрыманне палітычна залежнай клієнтуры і прамысловае прадпрымальніцтва ў каралеўскіх эканоміях. У 1786 у складзе камісіі ўтвораны тытунёвы дэпартамент (24 чал.), у 1791 — гарбарны (583 чал. разам з мытнымі зборшчыкамі). На *Чатырохгадовым сойме 1788—92* камісія 29.10.1791 добраахвотна дэлегавала свае паўнамоцтвы запланаванай *Скарбовай камісіі абодвух народаў*. Адноўлена 23 ліст. *Гарадзенскім соймам 1793* у складзе 6 чал. (Ю.Несялоўскі, Ю.Важынскі, Б.Марыконі, Ф.Букаты, І.Лахніцкі, М.Нелюбовіч). Апошні старшыня М.К.Агінскі. Самараспусцілася 9.5.1794, яе члены ў большасці далучыліся да паўстання 1794.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 7—8. 2 wyd. Petersburg, 1860; T. 10. Poznań, 1952; Puciatowa M. Rzut oka na dzieje Komisji Skarbu Rzeczypospolitej W. Ks. Litewskiego za rządów targowickich i sejmu grodzieńskiego // Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie, 1923—1933. Wilno, 1933; Żytkowicz L. Stosunki skarbowe W. Ks. Litewskiego w dobie insurekcji Kościuszkowskiej // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Drozdowski M. Podstawy finansowe działalności państwowej w Polsce, 1764—1793. Warszawa, Poznań, 1975.

***Яўген Анішчанка.***

**Скарбовы трыбунал**, адміністрацыйная і судовая ўстанова ў ВКЛ, якая ажыццяўляла кантроль за даходамі і расходамі дзяржаўнага скарбу, разглядала справы, звязаныя з нявыплатай падаткаў дзяржаве. Бярэ пачатак ад утворанай на сойме 1591 Скарбовай камісіі ВКЛ, якая павінна была разлічыць польных пісараў, спадкаемцаў памерлых падскарбіяў, паборцаў і шафараў па ўсіх грашовых разліках, пачынаючы з часоў караля Стафана Баторыя [1576—86]. У склад камісіі ўвайшлі вял. падскарбі ВКЛ, 4 сенатары і па 1 прадстаўніку з кожнага ваяводства ВКЛ. Пераемніцай камісіі стала створаная ў 1598 дэпутацыя з 2 сенатараў і 2 соймавых паслоў, якая павінна была рэвізаваць скарб ВКЛ, пачынаючы з разлікаў 1591. Соймам 1613 у Вільні створаны С.т. з тымі ж функцыямі, якому даручана выбраць даўгі ў скарб ВКЛ з правам судзіць даўжнікоў па справах з 1609. У склад С.т. ўвайшлі падскарбі, 6 сенатараў і прадстаўнікі ад ваяводстваў (некаторых з іх абралі ўжо на сойме, астатнія былі выбраны на мясц. сойміках). У часы Жыгімонта III С.т. склікаўся ў 1613, 1621, 1626, 1629 (двойчы) і 1631, у часы Уладзіслава IV — у 1633, 1634, 1635 і 1647. Засядаў С.т. у Вільні, у яго рабоце прымалі ўдзел прадстаўнікі войска. Судзіў справы, якія датычылі войска, разглядаў скаргі цывільных на вайскоўцаў і наадварот, ажыццяўляў канфіскацыю тавараў і інш. Войска давала справаздачу С.т. па сваіх грашовых даходах і расходах. У 1726 пастановай Гарадзенскага сойма частка функцый С.т. перададзена *Трыбуналу Вялікага княства Літоўскага*. С.т. скасаваны з утварэннем у 1764 *Скарбовай камісіі Вялікага княства Літоўскага*.

*Літ.*: Filipczak-Kocur F. Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587—1648. Wrocław, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**скарбовыя білеты**, папяровыя грошы ўрада *паўстання 1794*. Паводле рашэння Найвышэйшай нац. рады ад 8.7.1794 планавалася выпусціць С.б. на 60 млн. злотых з прымусовым курсам сярэбранай манеты без свабоднага дзярж. размену на яе. Дадатковымі рашэннямі 13.8.1794 і 4.9.1794 прадугледжваўся выпуск С.б. больш дробных наміналаў на 14 млн. злотых. Білетамі аплачваліся выдаткі ўрада, у падаткі яны прымаліся не больш як 50% ад сумы плацяжу (з 30.9.1794 без абмежаванняў). Пры адмове ад прыняцця С.б. першы раз пагражала паводле рашэння суда канфіскацыя на карысць скарбу 10% сумы, другі раз — 20%, трэці — 100%. З 20.10.1794 жорсткасць карных мер павялічылася — уводзіўся 20-кратны штраф, канфіскацыя ўсяго тавару, арышт. Падробка каралася смерцю і канфіскацыяй маёмасці. С.б. планавалася ў бліжэйшыя некалькі гадоў адклікаць з абарачэння, на што прызначалася на 10 млн. злотых штогод дзярж. маёмасці, якая павінна была прадавацца за С.б. Білеты ўведзены ў абарачэнне 16.8.1794 у час аблогі Варшавы прускімі войскамі. Атрымлівала С.б. і *Найвышэйшая літоўская рада* ў Вільні. С.б. хутка трацілі сваю вартасць. На наступны дзень пасля выпуску курс складаў 83% ад сярэбранай манеты, пасля палянення 10.10.1794 Т.Касцюшкі пад Мацяёвіцамі знізіўся да паловы. Абарачаліся да капітуляцыі Варшавы 8.11.1794. Страціўшыя вартасць білеты масава скупляліся і выкарыстоўваліся для фальшывых банкротстваў, таму паводле загаду генерал-губернатара Буксгеўдэна ад 25.5.1795 уладары С.б. павінны былі на працягу 2 тыдняў зарэгістраваць свае білеты ў адміністрацыі грамадскага скарбу ў Варшаве.

С.б. ўсіх 3 эмісій былі аднабаковыя, манахромнага друку, мелі арнаментальную рамку. У 1-й эмісіі 8.7.1794 білеты мелі паперу рознага колеру: 5 злотых — светла-фіялетавага, 10 злотых — ліловага, 25 злотых — аранжавага, 50 злотых — карычневага, 100 злотых — ружовага, 500 злотых — цаглянага і 1000 злотых — зялёна-ліманнага. У 2-й эмісіі 13.8.1794 на белай паперы друкаваліся наміналы 5 і 10 «медных» грошаў (з вадзянымі знакамі ў выглядзе рымскіх лічбаў V і X адпаведна), 1 злоты (вадзяны знак — надпіс «ZŁŁ 1»). У 3-й эмісіі 4.9.1794 на белай паперы друкаваўся намінал 4 злотых (з вадзяным знакам «ZŁŁ 4»). С.б. 1-й эмісіі былі вертыкальнай кампазіцыі, з дробнымі выявамі «Белага Арла», «Пагоні» і рэвалюцыйных сімва-

лаў уверсе, з тэкстам пра ўмовы пагашэння С.б., пячаткай Дырэкцыі С.б. (на большасці наміналаў «сухой», на 500 і 1000 злотых масцічнай), вадзяным знакам у выглядзе літар BS («bilet skarbowy») унізе, з рукапіснымі чарнільнымі подпісамі і нумарамі каля ніжняга краю. С.б. 2-й эмісіі былі вертыкальнай (5 грошаў) і гарызантальнай (10 грошаў, 1 злоты) кампазіцыі, з вывамі «Белага Арла» і «Пагоні», без нумарацыі і подпісаў, з курсіўнай наддрукоўкай «F.Malinowski» на адваротным баку. С.б. 3-й эмісіі былі спрошчанага афармлення, гарызантальнай кампазіцыі, без нумарацыі і подпісаў, з курсіўнай наддрукоўкай «F.Malinowski» на адваротным баку. Усяго было


1



2



3



4



5



6



7



8



9



10



11

**Скарбовыя білеты** (1794): 1, 2 — 5 грошаў; 3, 4 — 10 грошаў; 5, 6 — 1 злоты; 7, 8 — 4 злотых; 9 — 5 злотых; 10 — 10 злотых; 11 — 25 злотых;


12


13


14


15

**Скарбовыя білеты** (1794): 12 — 50 злотых; 13 — 100 злотых; 14 — 500 злотых; 15 — 1000 злотых.

выпушчана С.б. на суму 10 883 751 злоты 5 грошаў, у Генеральную касу Нац. скарбу перададзена С.б. на суму 10 883 437 злотых.

*Літ.*: Grodek A. Pieniądze papierowe podczas insurekcji 1794 r. // Rocznik Wyższej Szkoły Handlowej w Warszawie. 1927. T. 4; Kowalski M. Polski pieniądz papierowy 1794—1994. Warszawa, 1994.

***Іван Сінчук.***

**Скарга** (Skarga) Пётр (2.2.1536, каля Груйца, Мазовія–27.9.1612), польскі тэолаг і пісьменнік. Паходзіў з сям'і, якая выдавала сябе за шляхецкую (з прозвішчам Павенскі, шляхецтва сваякоў С. пацверджана каралём у 1593). Вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе набыў ступень бакалаўра. З 1564 ксёндз. У 1564—68 жыў у Львове, пасля ў Вене і Рыме, дзе ў 1569 уступіў у ордэн езуітаў. Выкладаў у езуіцкіх калегіумах у Яраславе (Галіччына), Познані, Львове, Вільні, Полацку (1581), Рызе (1582), Дорпаце (1583). Удзельнічаў у заснаванні ў Вільні калегіума, пасля яго ператварэння ў *Віленскую акадэмію* (1579) стаў яе першым рэктарам. З 1584 у Кракаве, дзе займаўся філантрапічнай дзейнасцю. З 1588 прыдворны прапаведнік Жыгімонта III (з 1598 разам з яго дваром у Варшаве), выступаў на соймах. Як пісьменнік пачаў з палемічных выступленняў супраць пратэстантаў і *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*, а таксама ў падтрымку царк. уніі [«Пра еднасць касцёла Божага» (Вільня, 1577), «Сінод Берасцейскі і яго абарона» (Кракаў, 1597) і інш.]. Быў адным з гал. натхніцеляў і ідэолагаў *Берасцейскай уніі 1596* (асабіста ўдзельнічаў у Берасцейскім саборы), лічыў, што яе заключэнне прынясе Рэчы Паспалітай рэліг. і паліт. аднастайнасць, а праваслаўным — асвету, навуку і паліт. перавагі. З мэтай узмацнення прывабнасці каталіцтва напісаў «Жыціі святых» (Вільня, 1579), якія карысталіся вял. папулярнасцю (8 прыжыццёвых выданняў) і ў 17 ст. былі перакладзены на старабел. мову. Вял. літаратурнымі якасцямі вызначаюцца яго «Казанні на нядзелі і святы цэлага года» (1597), у складзе якіх змешчаны соймавыя прамовы, дзе С. дае маральную і паліт. ацэнку сітуацыі ў дзяржаве. Быў прыхільнікам моцнай каралеўскай улады (але падпарадкаванай царкве) і абмежавання шляхецкай дэмак-


П. **Скарга**. Партрэт невядомага мастака. 17 ст.

ратыі і ўлады сойма, рэзка крытыкаваў анархізм і разбэшчанасць шляхты. Кампіляцыйная кніга С. «Касцёльныя падзеі па гадах» (1603), таксама папулярная сярод чытачоў, у 2-й пал. 17 ст. некалькі разоў перакладалася на царк.-слав. мову.

*Літ.*: Wojciechowski K. Piotr Skarga. Lwów, 1912; Berga A. Un prédicateur de la cour de Pologne sous Sigismond III Pierre Skarga. Paris, 1916; Korolko M. O prozie «Kazac sejmowych» Piotra Skargi. Warszawa, 1971; Tazbir J. Piotr Skarga, szermierz kontrreformacji. Warszawa, 1983; Obirek S. Wizja kościoła i państwa w kazaniach ks. Piotra Skargi SJ. Kraków, 1994; Rutkowski H. Szlachectwo Piotra Skargi // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1998. T. 42.

***Ігар Клімаў.***

**скаргі**, легальная форма пратэсту сялян і мяшчан землеўласнікам (дзяржаве, царкве, прыватным асобам) на злоўжыванні і адкрытае рабаванне з боку непасрэдных трымальнікаў і адміністрацыі ўладанняў. У 16—18 ст. ужываўся таксама тэрмін «суплікі». С. выкладаліся ў пісьмовай ці вуснай форме, былі індывідуальныя (ад адной гаспадаркі) ці калектыўныя (ад вёскі, воласці, уладання). Найб. колькасць складаюць С. дзярж. сялян, якія мелі афіцыйнае права скардзіцца каралю. Радзей трапляюцца С. прыватнаўласніцкіх сялян, бо маёнткі часцей за ўсё кіраваліся непасрэдна ўладальнікам, а скардзіцца на яга сяляне не мелі права. Амаль усе С. — пратэст прыгонных супраць патрабаванняў арандатараў ці аканомаў звышінвентарных павіннасцей і падаткаў, пашырэння панскага ворыва за кошт сял. надзелаў. Яны таксама сведчаць аб цяжкіх экзекуцыях, якія ўжывалі часовыя гаспадары ўладанняў, каб спагнаць з прыгонных дадатковыя службы і падаткі. С. даюць магчымасць вызначыць не нарматыўны (інвентарны), а фактычны памер феад. рэнты, рэальны стан сял. гаспадаркі, характар землекарыстання і яго памеры. Пасля атрымання С. землеўласнікі часта прымалі меры па спыненні парушэнняў, асабліва ў выпадках нанясення ўрону сял. гаспадарцы, а значыць і прыбыткам феадала. С. — адна з нямногіх крыніц феад. эпохі, якая зыходзіла непасрэдна ад сялян і мяшчан. С. перадаюць жывую гутарковую мову, уводзяць у асяродак жыццёвых клопатаў і вострых будзённых канфліктаў сярэдневяковай вёскі і горада.

*Літ.*: Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982; Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии: Конец XIV в.—1648 г. Т. 1. Мн., 1988; Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мн., 1992.

***Павел Лойка.***

**Скарульскі** Антоній Адам (22.11.1715, Жамойць—28.1.1777), філосаф, педагог. З 1730 чл. ордэна езуітаў, з 1742 святар. Выкладаў філасофію, гісторыю і геаграфію ў езуіцкіх навучальных установах Латвіі і Літвы. Рэктар калегіумаў у Навагародку (1760—64) і Коўне (1764—66), у 1766—72 правінцыял літоўскі (кіраўнік Літ. правінцыі ордэна). Рэктар Віленскай акадэміі ў 1772—73. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) заставаўся белым ксяндзом, з 1775 канонік віленскі. Аўтар кнігі «Каментарыі па філасофіі» (Вільня, 1755), дзе выклаў асноўныя філасофскія сістэмы новага часу і адкрыцці ў прыродазнаўстве, прывёў каштоўныя звесткі па астраноміі, механіцы і інш. галінах ведаў. Доўгі час гэта праца выкарыстоўвалася як падручнік па філасофіі.

*Тв.*: Рус. пер. — Комментарии по философии, или логике, то есть метафизике, общей и специальной физике. Вильна, 1755 // Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991.

*Літ.*: Wasik W. Historia filozofii polskiej. T. 1. Warszawa, 1958; Бирило А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971; Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917). Мн., 1973; Цукерман А.Я. Философская мысль в Белоруссии середины XVIII в. Мн., 1980; Darowski R. Poglądy filozoficzne Antoniego Skorulskiego. Kraków, 1996.

**Скарына** Францыск (каля 1490, г. Полацк—каля 1551), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік, вучоны-медык. Дакладная дата нараджэння невядома. Супастаўленне універсітэцкіх актаў (паступіў у Кракаўскі ун-т у 1504, у акце Падуанскага ун-та 1512 названы «маладым чалавекам») дае магчымасць прыняць 1490 як прыблізны год яго нараджэння (дапушчальна і 2-я пал. 1480-х г.). Даследчыкі лічаць, што прозвішча «С.» ўтварылася ад стараж. слова «скора» (скура) або «скорина» (скарынка). Першыя дакладныя звесткі пра сям'ю С. вядомы з канца 15 ст.


Ф. **Скарына**. Дрэварыт. 1519.




Тытульны ліст «Біблії» Ф.**Скарыны**. Прага. 1519.

Бацька С. — Лук'ян Скарына згадваецца ў спісе рас. пасольскіх прэтэнзій 1492 да полацкіх купцоў. Старэйшым братам С. быў Іван, каралеўскі дэкрэт называе яго адначасова віленскім мешчанінам і палачанінам. Невядома і хроснае імя С. Старая гіпотэза аб тым, што С. іменаваўся Георгіем, у святле новых дакументальных адкрыццяў не вытрымлівае крытыкі. У сваіх выданнях С. больш за 100 разоў выкарыстоўвае імя «Францыск», зрэдку — «Францішек». У актах ВКЛ на лацінскай мове яго называюць «Franciscus», на бел. мове — «Франъцышак», «Франъцышъко». Відаць, першапачатковую адукацыю С. атрымаў у Полацку. Тут або ў сталіцы ВКЛ Вільні прайшоў і далейшыя школьныя навукі, авалодаў лацінскай мовай. У зімовы семестр 1504 паступіў вучыцца ў Кракаўскую акадэмію (ун-т) на факультэт вольных мастацтваў або філасофіі. Акадэмія славілася як адзін з асн. цэнтраў еўрапейскай астраноміі і астралогіі, матэматыкі, прававых і гуманітарных навук. Працы прафесараў акадэміі сістэматычна публікаваліся ў кракаўскай друкарні Я.Галера. Няма сумнення, што ў Кракаве С. ўсвядоміў навучальныя і асветніцкія магчымасці друкаванай кнігі. Праз 2 гады (мінімальны час для студэнтаў філасофскага факультэта) у 1506 С. вытрымаў экзамен на ступень бакалаўра вольных мастацтваў. Невядома, дзе С. знаходзіўся ў 1507—12. Ёсць меркаванні, што ён скончыў ун-т у Празе, дзе атрымаў ступень доктара філасофіі, але больш лагічна дапусціць, што ён атрымаў доктарскі дыплом у Кракаве. Запіс у акце Падуанскага ун-та 9.11.1512 сведчыць пра тое, што ён быў сакратаром караля «Дацыі» (Даніі). Знаходжанне С. ў Капенгагене супала з ажыўленнем адносін Даніі з Польшчай і ВКЛ, бо рэзка ўскладніліся яе адносіны са Швецыяй. У 1509 для падпісання дагавора аб дружбе Данію наведала пасольства караля польскага і вял.




Тытульны ліст кнігі «Ісус Сірахаў». Прага 1517.




«Генеалагічнае дрэва Ісуса». Гравюра з «Псалтыра». Прага. 1517.




Тытульны ліст кнігі «Прытчы Саламона». Прага. 1517.




Тытульны ліст 1-й кнігі «Царстваў». Прага. 1518.



Тытульны ліст кнігі «Ісус Навін». Прага. 1518.

князя літоўскага Жыгімонта І. Дацкі кароль, магчыма, улічваў, што С. акрамя ведання лацінскай мовы валодаў «рускай» (беларускай) — дзярж. мовай ВКЛ. Менш абгрунтаванай падаецца версія, быццам «Дацыя» — гэта валашскія (румынска-малдаўскія) землі, дзе ў той час зараджалася кірылічнае кнігадрукаванне. Не пазней за восень 1512 С. прыбыў у Італію, у Падую, каб набыць ступень доктара медыцыны. Падуанскі ун-т у сувязі з ваеннымі падзеямі ў 1509—16 быў практычна зачынены. Можна меркаваць, што грунтоўную мед. адукацыю С. атрымаў ў Кракаве, дзе дзейнічалі 2 кафедры медыцыны (без права даваць доктарскія дыпломы), або ў самой Падуі ці ў Балонскім ун-це. 9.11.1512 у прысутнасці калегіі дактароў і прафесараў Падуанскага ун-та, арцыбіскупа, жыхароў Падуі і Вероны і студэнтаў С. бліскуча абараніў ступень доктара медыцынскіх навук. Перыяд 1513—16 у жыцці С. не асветлены дакументальнымі звесткі, але менавіта ў гэты час С. вырашыў пачаць кнігадрукаванне. Безумоўна, яго ў гэтых намерах падтрымлівалі землякі з Вільні, Полацка, бел. купцы, члены віленскага магістрата. Не выклікае сумненняў, што ў 1510-х г. С. наведаў ВКЛ — Вільню, Полацк, інш. гарады і заручыўся падтрымкай суайчыннікаў. Інтэнсіўная выдавецкая дзейнасць С. ў Празе ў 1517—19 дазваляе думаць, што ён пасяліўся тут не пазней як у 1516. 6.8.1517 С. выдаў сваю 1-ю кнігу — Псалтыр, пасля яшчэ 19 кніг (або 22, калі лічыць кнігі «Царстваў» за 4) Старога Запавету («Библия руска»): «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў» (усе 1517), «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць Божая», «Царствы», «Ісус Навін» (усе 1518), «Юдзіф», «Суддзі», «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Руф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл» (усе 1519). Некаторыя з апошніх выданняў, якія не маюць выхадных звестак і традыцыйна датуюцца 1519, магчыма, надрукаваны ў 1520. Каля 1520 С. пераехаў у сталіцу ВКЛ Вільню. У пач. 1520-х г. ён пачаў тут кнігадрукаванне, каля 1522 выдаў «Малую падарожную кніжку», якая складаецца з 23 частак: «Пісаныя рэчы», Псалтыр, «Часасловец», «Акафіст магіле гаспадняй», «Канон магіле гаспадняй», «Акафіст архангелу Міхаілу», «Канон архангелу Міхаілу», «Акафіст Іаану Прадцечы», «Канон Іаану Прадцечы», «Акафіст Багародзіцы», «Канон Багародзіцы», «Акафіст святым Пятру і Паўлу», «Канон святым Пятру і Паўлу», «Акафіст святому Міколе», «Канон святому Міколе», «Акафіст крыжу гаспадняму», «Канон крыжу гаспадняму», «Акафіст Ісусу», «Канон Ісусу», «Шасціднёвец», «Канон пакаяльны», «Канон на ютрані», «Саборнік». Некаторыя часткі «Малой падарожнай кніжкі», магчыма, выходзілі як асобныя выпускі. У 1525 у Вільні С. выдаў Апостал. З сярэдзіны 1520-х г. С. выконваў функцыі сакратара віленскага біскупа Яна з князёў літоўскіх і займаўся медыцынскай дзейнасцю. У Вільні С. ажаніўся з Маргарытай, удавой віленскага радцы Юрыя Адверніка, і жыў у яе камяніцы на Нямецкай вул. недалёка ад палаца князёў Слуцкіх. Няма звестак аб тым, што С. меў у Вільні ўласны дом. Мабыць, усе сродкі ён аддаваў на выдавецкую справу. Як лічаць даследчыкі, у канцы 1520—пач. 1530-х г. С. наведаў Маскву з мэтай распаўсюджання сваіх выданняў. Паездка была няўдалай, кнігі спалены. У напружаных сац.-паліт. абставінах у Маскоўскай дзяржаве, дзе яшчэ памяталі наўгародска-пскоўскія ерасі з іх вольным тлумачэннем біблейскіх тэкстаў і дзе з канца 15 ст. існаваў



Тытульны ліст кнігі «Песня песням». Прага. 1518.

свой афіцыйны звод Біблії, пачынанні С. не маглі мець поспеху. У 1530 нейкія прычыны схілілі С. з'ездзіць у Каралявец (Кёнігсберг) да герцага Альбрэхта. Відаць, гэта было звязана з распаўсюджаннем у 1529—30-х г. у Прускім герцагстве пандэміі т.зв. англійскай гарачкі. Паводле інш. меркаванняў, увагу герцага прыцягвала асветніцкая і выдавецкая дзейнасць С. У канцы 1520—пач. 1530-х г. пагоршы-



Тытульны ліст кнігі «Плач Ераміі». Прага. 1519.

ласся матэрыяльнае становішча С., памерлі амаль усе айчынныя апекуны яго пачынанняў: Якуб Бабіч, Багдан Онкаў, Рыгор Авернік. Пачаўся шэраг працэсаў у Вільні з-за нерухомай маёмасці жонкі С. Як удзельнік гандлёвых аперацый нябожчыка брата Івана С. нават адседзеў некалькі месяцаў у пазнанскай турме. Страшэнны пажар 1530, які знішчыў значную частку Вільні, абвастрыў адносіны паміж гар. нізамі і патрыцыятам. Апякун С. віленскі біскуп Ян у 1536 быў пераведзены ў Познань, дзе неўзабаве памёр. Збег розных акалічнасцей і адсутнасць выразнай сац. падтрымкі вымусілі С. пакінуць ВКЛ і ад'ехаць у Прагу. У канцы 1530-х г., а магчыма і ў 1540-х г., С. працаваў садоўнікам каралеўскага парку на Градчанах. Дакладны час смерці С. невядомы. Мабыць, гэта здарылася каля 1551, бо ў студз. 1552 яго сын Сімяон атрымаў ад чэшскага караля прывілей на права атрымаць спадчыну бацькі, і ў тым жа годзе аб'явілі аб сваіх прэтэнзіях на маёмасць С. Марцін Онкавіч і лаўнік віленскага магістрата купец Тоўсцік. Месца пахавання С. невядома.

Заснаванне С. бел. кнігадрукавання стала вяршыняй яго духоўнай дзейнасці, найб. выразным і яскравым пралогам бел. Адраджэння 1-й пал. 16 ст. У друкаванай кнізе С. бачыў невычарпальныя магчымасці духоўнай асветы народа, выхавання высокіх хрысціянскіх, маральных і грамадзянскіх якасцей, усё большага далучэння да еўрапейскага культ.-гіст. соцыума і актыўнага ўзаемадзеяння з ім. Відаць, доўгія падарожжы С. па краінах з развітым кнігадрукаваннем (Польшча, асабліва Італія, Чэхія і інш.), знаёмства з друкаванай кнігай, якая з канца 15 ст. ўсё ў большых маштабах пранікала на землі ВКЛ, спрыялі яго планам, а падтрымка бел. мяшчан Вільні і Полацка забяспечыла іх ажыццяўленне. У адрозненне ад Польшчы, дзе ў той час значныя колы духавенства і вярх. ўлада не падтрымлівалі падобных праектаў (як раней Ш. *Фіёля* ў канцы 15 ст.) і дзе існавала значная манапалізацыя друкарскай справы, больш падыходзіла для рэалізацыі яго планаў Чэхія. Менавіта ў Празе С. ў асноўным завяршыў свой пераклад і каменціраванне тэкстаў Біблії на падставе лацінскіх, чэшскіх, стараж.-яўрэйскіх і царк.-



Числа :-

Людие Ізраилевы сполки своими около храму б҃жиим:

Книги четвертыѣ Моисеевы, зо-
вемыѣ Числа. Зуполне выложе-
ны на руский языкъ, доктором
Франциском Скориною с Полоцька
Богу ѿцу и сыну и светому духу ко чти
и людем посполитым к добрему научению :-

Тытульны ліст кнігі «Лічбы». Прага. 1519.

слав. крыніц і ў 1517—19 выдаў 23 кнігі Старога Запавету. Віленскія выданні 1520-х г. — «Малая падарожная кніжка» і Апостал — больш звязаны з традыцыйнай бел. і ўсх.-слав. кніжнасцю (за выключэннем некаторых дадаткаў, арнаментыкі і каментарыяў С.) і выдаваліся на царк.-слав. мове. У Вільні С. ў адрозненне ад Прагі меў сваю друкарню ў доме найстаршага бурмістра Якуба Бабіча каля Рынку і больш актыўна



Моисей научае людей Ізраилевых второго закону :-

Книги пятыи Моисеовы зовемыи
ѿ Еврей Гельгаддеворимъ, ѿ Грече-
ский Девтерономосъ, по латине
Секунда Лексъ, а по руский вто-
рый законъ. Зуполне выложены докто-
ромъ Франциском Скориною с Полоцька :-

Тытульны ліст кнігі «Другі закон». Прага. 1519.

займаўся непасрэднымі друкарскімі справамі. Кнігі С. вылучаюцца высокімі выдавецкімі і друкарскімі якасцямі. Бел. кнігадрукаванне адразу пачалося з высокага еўрапейскага ўзроўню. Рэнесансавыя выданні С., адметныя мастацкім, гравюрным, арнаментальным упрыгожаннем, шрыфтам і інш. кампанентамі выдавецкай эстэтыкі і майстэрства, былі арыентаваны на ўсе пласты бел. насельніцтва. Яны вылучаліся практычнымі памерамі, а каментарыі разлічаны на ўспрыняцце кніжнай прамудрасці простым («паспалітым») людам «языка рускага» (бел. і інш. усх.-слав. моў). З гэтай мэтай ён тлумачыў на палях кнігі архаічныя царк.-слав. словы «рускай мовай». Інш. маргіналіі С. павінны былі падкрэсліць духоўнае адзінства Свяшчэннага Пісання. З замежных, магчыма славянскіх, выданняў С. запазычыў падзел псалмоў на вершы. Кнігі С. зрабілі вял. ўплыў на развіццё духоўнай культуры Беларусі і Украіны, стымулявалі ўзнікненне кнігадрукавання ў Маскоўскай Русі, распаўсюджваліся ў шматлікіх рукапісных копіях. Арнаментальныя матэрыялы Віленскай друкарні С. да 1652 выкарыстоўваліся ў выданнях найбуйнейшай бел. друкарні — *Віленскай брацкай друкані* і яе філіяла — *Еўінскай друкарні*, а некаторыя пражскія ініцыялы сустракаюцца ў выданнях *Астрожскай друкарні* на Украіне ў канцы 16 ст. Невядома, хто супрацоўнічаў са С. у яго выдавецкай і друкарскай дзейнасці. На думку даследчыкаў, шматлікія рэнесансавыя гравюры пражскіх выданняў С. выконваліся прадстаўнікамі розных мастацкіх школ пры ўдзеле самога С. (партрэт С. да кніг «Ісус Сірахаў» і «Царствы»). У Віленскай друкані С., безумоўна, працавалі і бел. мастакі, граверы, рамеснікі, друкары. Маргінальныя запісы 16—18 ст. на кнігах С. сведчаць аб іх актыўным выкарыстанні рознымі пластамі бел. і замежных чытачоў: купцамі, святарамі, настаўнікамі, вучнямі, тагачаснай адукаванай элітай, гар. патрыцыятам, правасл. і уніяцкімі манахамі і інш. Выданні С. з'яўляюцца унікальнымі помнікамі свецкай рэнесансавай біблейскай пісьменнасці. Іх месца ў еўрапейскім і бел. культ.-гіст. працэсе вызначаецца гіст. ўмовамі, традыцыямі, своеасаблівасцю і агульным узроўнем духоўнага

развіцця Беларусі і ўсх.-слав. зямель ВКЛ. Разам з тым, яны адлюстроўваюць і асабітстыя рысы С., яго духоўную адоранасць і непаўторнасць, веліч яго подзвігу. Біблія С. не адпавядае поўнасцю ніводнаму з вядомых рукапісных ці друкаваных зводаў Свяшчэннага Пісання. Яна адыходзіць ад царк. традыцый не столькі сваім складам і зместам (дзе шмат кананічнага), колькі агульнай накіраванасцю, жывым духам і свецкай хрысціянскай узнёсласцю, грамадскімі, нац.-патрыятычнымі, гуманістычнымі і асветніцкімі тэндэнцыямі.

Творы С. непарыўна і арганічна звязаны з яго выданнямі, тэмамі і накіраванасцю яго духоўнай дзейнасці і могуць быць ацэнены толькі ў адпаведным і сінтэтычным кантэксце. Празмерная адчужанасць і дыферэнцыяцыя тэкстаў і выказванняў С. ў адрыве ад іх каментарыйна-тлумачальных функцый, што характэрна для некаторых скарыназнаўчых даследаванняў, вядзе да памылковай і спрошчанай інтэрпрэтацыі яго поглядаў. Творы С. — гэта сукупнасць уступных, заключных і каменціруючых матэрыялаў, якія дастасаваны да адпаведных біблейскіх кніг і ствараюць з імі і ўсёй Бібліяй разам арганічную цэласнасць. Асн. ролю адыгрываюць «предъсловия» і блізкія да іх па функцыях «сказания». У пражскіх выданнях 21 прадмова і 4 сказанні, у віленскіх — адпаведна 2 і 21. Большасць даследчыкаў адносіць прадмовы і сказанні да адной жанравай разнавіднасці, на думку іншых (У.М.Конан, В.І.Дарашкевіч, А.А.Яскевіч) — сказанні бліжэй да пазнейшых бел. пропаведзяў, казанняў. Яны звычайна больш сціплыя, адрозніваюцца сваёй стылістыкай, красамоўствам, насычаны багаслоўскай рыторыкай. Кнігі С. прызначаліся для прыватнага і сямейнага чытання, выкарыстання ў царк. службах і свецкіх б-ках. С. ўлічваў адсутнасць у ВКЛ і ўсёй Усх. Еўропе развітой кніжна-пісьмовай традыцыі па перапісванні біблейскіх зводаў, недастатковае знаёмства з імі свецкіх і нават царк. колаў. Асобныя рукапісныя зводы Бібліі («Генадзіеўская Біблія» 1499, «Дзесятаглаў» Мацея Дзевятага 1502—07, «Пяцікніжжа» дзяка Фёдара 1514) не былі прызначаны для шырокага распаўсюджання і толькі вынаходніцтва друку адчыніла перад ёй шырокія перспектывы. Каб пазбегнуць спрошчанага, памылковага ўспрыняцця Бібліі, С. імкнуўся ў простай і зразумелай форме каменціраваць біблейскія тэксты, падаваць звесткі аб гіст., побытавых, багаслоўскіх, моўных рэаліях. У тэалагічным кантэксце асн. месца ў прадмовах і сказаннях С. займала т.зв. экзагеза — тлумачэнне алегарычнага зместу кніг Старога Запавету як прадвесця і прароцтва новазапаветных падзей, перамогі хрысціянства ў свеце і надзеі на вечнае духоўнае выратаванне. Комплекс прадмоў і сказанняў С. дапаўняюць калафоны — пасляслоўі з некаторымі выхаднымі звесткамі і т.зв. надпісанні — сціслыя ўступныя каментарыі да глаў кожнай кнігі. Даследчыкі адзначаюць стылявы і жанравы сінкрэтызм асн. твораў С., дасканаласць выяўленчых сродкаў, публіцыстычнасць, экспрэсіўнасць, прытчавы і алегарычны характар, багацце гіст., філасофскіх, тэалагічных каментарыяў, сугучнасць узнёслай моўнай стылістыцы кніг Бібліі. Празаічныя творы С. ў «Малой падарожнай кніжцы» ўпрыгожвае і дапаўняе вял. гімнаграфічны цыкл, у т.л. ўласныя аўтарскія гімны С. Побач з развітой аратарскай прозай у прадмовах С. прасочваюцца прыкметы некаторых інш. літ. жанраў, якія пазней занялі значнае месца ў бел. л-ры і пісьменстве, у т.л. сілабічнае вершаванне (вольны пераклад дэкалога ў прадмове да кнігі «Выхад» і інш.). Прадмовы і сказанні С. сінтэтычныя і сінкрэтычныя таксама па сваіх тэалагічных, біблейскіх, кніжна-пісьмовых крыніцах: побач з традыцыйнымі ўсх.-патрыстычнымі творамі, стараж. рэдакцыямі і перакладамі Псалтыра, Апостала, некаторых інш. кніг Бібліі ён выкарыстаў чэшскія, польскія, зах.-еўрапейскія друкаваныя выданні, у т.л. Вульгату (лацінскі пераклад Бібліі). Спасылкі С. на стараж. яўрэйскія, грэчаскія, слав. і лацінскія пераклады, на багаслоўскія і каментуючыя творы антычных і сярэдневяковых аўтараў сведчыць аб тым, што сваю дзейнасць ён разглядаў у рэчышчы айчынных, агульнаеўрапейскіх і агульнахрысціянскіх культ.-гіст. працэсаў, як важны этап далейшага духоўнага прасвятлення, хрысціянізацыі, маральнага ачышчэння і ўдасканалення свайго



Тытульны ліст кнігі «Юдзіф». Прага. 1519.

народа. З тэалагічнымі і канкрэтна-біблейскімі каментарыямі С. арганічна звязаны ўласна аўтарскія разважанні, адступленні, трактоўкі, апісанні, пропаведзі, што дазваляе адносна аб'ёмна і сістэмна меркаваць аб яго грамадскіх і інш. поглядах. Многія рысы светапогляду С., яго гіст., этнічнай і сац. свядомасці абумоўлены спецыфікай гіст. развіцця радзімы ў вузкім і шырокім дзярж.-паліт. сэнсе.



Тытульны ліст кнігі «Руф». Прага. 1519.


Самсонъ пресилный растерзалъ льва напути :-

Книги судей. еже от евреи называютсѧ шофтимъ. з полне выложены на рускый ѧзыкъ докторомъ францискомъ скориною изславнаго града полоцка. богу к чти и людем посполитым к наўце починаютсѧ :-

Тытульны ліст кнігі «Суддзі». Прага. 1519.

Характэрная своеасаблівасць літ. і выдавецкай дзейнасці С. не абмяжоўваецца яго першапраходствам у галіне кірылічнага кнігадрукавання ў Беларусі і Усх. Еўропе. Яна выразна засведчана ў жанрава-тэматычным выбары першадрукаў, іх унутранай структуры, перакладзе і каментарыях, мастацкіх, літ.-пісьменніцкіх, філасофскіх і моўных рысах яго выданняў, у агульнай арыентацыі яго творчасці на патрэбы Айчыны і народа. Калі на яго радзіме завяршаўся працэс фарміравання ўсё больш замкнёнай і размежаванай саслоўна-класавай структуры, абвастрыліся ўнутраныя супярэчнасці, уласныя інтарэсы пануючых пластоў сталі паволі прэваліраваць над этнаканфесіянальнымі і культурна-моўнымі традыцыямі, а гар. паспольства было заканадаўча адмежавана ад дзярж.-паліт. дзейнасці, на агульназемскім узроўні. С. выступіў гарачым прыхільнікам духоўнага і грамадскага адзінства ўсяго народа. Упершыню ў гісторыі Беларусі былі так цесна зліты ідэі адзінства і прымату хрысціянскай і этнічнай свядомасці.

Кнігі С. яскрава сведчаць аб істотных зменах у развіцці духоўных і этнаінтэграцыйных працэсаў на Беларусі, асэнсаванні гіст. і культурна-моўнага адзінства бел. народнасці. Традыцыйнасць этнагіст. вызначэнняў у С. — «Русь», «Руская мова», «Біблія руска» — не пярэчаць таму, што С. ў сваіх выданнях меў на ўвазе перш за ўсё Русь айчынную, уласна бел. землі з іх насельніцтвам, традыцыямі і культурай. Яскравым пацверджаннем этнагіст. і патрыятычнай свядомасці С. з'яўляецца яго замілаванне Полацкам і Полаччынай. Яно напаўняе яго агульнапатрыятычныя ўяўленні канкрэтным зместам — любоўю да сваёй малой радзімы, сям'і. С. адзначаў: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рыбы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым падобныя боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имеють». Адсюль і палымянае імкненне С. служыць свайму народу, распаўсюджваць хрысціянскія і рэнесансава-гуманістычныя погляды, натхняць на асабістую і грамадскую актыўнасць, дасканаласць, пасціжэнне высокага сэнсу зямнога быцця і боскіх запаветаў.

У творах С. своеасабліва сінтэзаваліся антычныя і сярэдневяковыя традыцыі з ідэалогіяй еўрапейскага Адраджэння, хрысціянскі гуманізм з рэнесансава-гуманістычнымі ўяўленнямі. Патрыятычныя пачуцці С., яго намаганні садзейнічаць усебаковаму духоўнаму і грамадскаму развіццю Айчыны не супярэчаць яго поглядам на гісторыю чалавецтва, права, заканаўства, звычаі і традыцыі інш. народаў. Ён далёкі ад рэліг. фанатызму, ваяўнічага місіянерства. Яго канфесіянальныя погляды вызначаюцца талерантнасцю, а ў пражскіх выданнях нават пэўнай непасрэднасцю. Сучасныя даследчыкі звяртаюць шмат увагі на характарыстыку асветніцкіх імкненняў С., яго павагу да свецкіх навук, кніжнай справы, л-ры, мастацтва, пісьменства, духоўных здабыткаў стараж. часоў і эпохі Адраджэння. Аднак супрацьстаўленне ў творах С. свецкай і боскай «мудрасці» і «навукі» (якое даследчыкі лічаць праявай сярэдневяковага светапогляду) — памылковая антыномія. Упамінанні аб свецкіх навуках, «душевных і телесных лекарствах» былі патрэбны С., каб стварыць ўзнёслы панегірык глыбіннай «прамудрасці» — «тайнам превеликим Божиим». Сапраўдныя асветніцкія погляды С. выяўляюцца ў тым, якія сродкі, на яго думку, найбольш прыдатныя для гэтай велічнай песні боскай мудрасці. Сярод іх — «вси законы и права, ими же люде на земли справовтися имеють», «философия добранравное», «седм наук вызволеных»: граматыка («по-руски говорячи, грамота, еже добре чести и мовити учить»), рыторыка («красномовность»), логіка, музыка («певница»), матэматыка («аритметика, еже во кратце, а неомылие считати учить»), геаметрыя («поруски сказуется землемерие»), астраномія, а таксама грамадская і ваенная гісторыя і інш.

С. высока ацэньваў выдатных дзеячаў антычнага свету, знакамітых біблейскіх герояў, пазітыўна ставіўся да сучаснага яму караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта I. У сістэме боскай іерархічнай пабудовы свету і зямной грамадскай гісторыі С. аналізаваў вядомую сярэдневяковай тэалогіі антыномію: «закон прыражоны» (боскі) і «закон пісаны». Ідэі прававой дзяржаўнасці, справядлівага і маральнага вяршэнства законаў у тыя часы былі надзвычай актуальнымі. Менавіта тады быў распрацаваны і зацверджаны першы агульнадзярж. збор законаў — Статут ВКЛ 1529, які сістэматызаваў і рэгуляваў асн. сферы сац. і


Гдь Богъ глаголетъ Моисеи у храму свѣдениѧ :-

Книги третие Моисеовы, зовемые левитъ. з полне выложены на рускый ѧзыкъ докторомъ францискомъ скориною с полоцька богу в троици единому, и пречистой матери его марии к чти, и людем всим к наўце :-

Тытульны ліст кнігі «Левіт». Прага. 1519.

прававых адносін. Апалогія «прыражонага закона» ў С. — гэта праекцыя ідэальнай мадэлі прававой арганізацыі грамадства, заснаванай на боскіх і хрысціянскіх запаветах. «Закон прироженый, — пісаў С., — в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, итого не чинити иным, чего сам не хошеши от иных имети». «Закон пісаны», па словах С., быў таксама дараваны ад Бога ў Свяшчэнным Пісанні, а пазней устаноўлены ад людзей праз царк. саборы і земскія законы. С. не бачыў неабходнасці ў параўнанні пісаных законаў розных краін і народаў. Для яго больш істотныя асн. пастулаты права, іх блізкасць і падабенства да «прыражонага закона». Як абгрунтаванне саслоўна-манархічнага ладу, удасканалення земскага заканадаўства ўспрымалася сучаснікамі С. яго апісанне стараж. правоў і статутаў, заключаных у біблейскіх кнігах: права паспалітае, язычніцкае, царскае, рыцарскае, гарадское, марское, купецкае і інш.

Паліт. і сац. погляды С. складаліся пад уздзеяннем рэальных працэсаў, што адбываліся на Беларусі, у ВКЛ, Польшчы, інш. еўрапейскіх краінах. Паліт. ідэалам С. была, відаць, моцная і асветная манархічная ўлада, якая падтрымлівае хрысціянскую справядлівасць, законнасць, правасуддзе, мірныя зносіны з суседзямі, спрыяе развіццю духоўнай культуры, гандлю, рамяства. Гэтаму ідэалу далёка не поўнасцю адпавядала паліт. рэчаіснасць ВКЛ з яго палітыка-адм. раз'яднаннем, царк.-рэліг. супярэчнасцямі, з аслабленай вярхоўнай уладай, асобнымі прывілеямі буйных землеўласнікаў, неўладкаванай сістэмай свецкага і царк. права. Невыпадкова ўвасабленне свайго ідэалу С. бачыў у дзейнасці стараж. грэчаскіх і рымскіх цароў і заканадаўцаў: Салона, Нумы Пампілія, Лікурга, егіпецкага цара Пталамея IV Філапатара і інш. Значная ўвага С. да пытанняў права, ролі народаў у выпрацоўцы законаў, ідэі справядлівасці, роўнасці ўсіх людзей перад законам сведчыць пра тое, што ён быў занепакоены рэальным становішчам спраў на сваёй радзіме, з'явамі сац. дыскрымінацыі, феад. анархіі, свавольства. Духоўная спадчына С. была асэнсавана і ў значнай ступені ўспрынята і развіта наступнымі пакаленнямі выдатных бел. мысліцеляў, гуманістаў-асветнікаў. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 125, 143.




Тытульны ліст кнігі «Выхад». Прага. 1519.

*Тв.*: Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969; Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. Мн., 1990; Біблія: Факс. ўзнаўленне Бібліі, выд. Францыскам Скарынаю ў 1517—1519 гг. Т. 1—3. Мн., 1990—91.

*Літ.*: Владимиров П.В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888; Чатырохсотлецце беларускага друку, 1525—1925. Мн., 1926; Флоровский А.В. Чехи и восточные славяне: Очерки по истории чеш.-рус. отношений. Т. 2. Прага, 1947; Алексютовіч М.А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958; 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Анічэнка У.В. Слоўнік мовы Скарыны. Т. 1—3. Мн., 1977—94; Подокшин С.А. Скорина и Будный. Мн., 1974; Яго ж. Франциск Скорина. М., 1981; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстет. мысли в Белоруссии в XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Яго ж. Боская і людская мудрасць: (Францішак Скарына: жыццё, творчасць, светапогляд). Мн., 1990; Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Vladimirovas L. Knygos istorjia: Senovė. Viduramžiai. Renesansas. XVI—XVII. Vilnius, 1979; Čemerickii V., Golenčenko G., Hmatov V. Francisk Skorina. Paris, 1979; Мальдзіс А. Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў. Мн., 1988; Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. давед. Мн., 1988; Спадчына Скарыны: Зб. матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986). Мн., 1989; Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. Мн., 1989; Каўка А. Тут мой народ: Францішак Скарына і бел. літ. XVI—пач. XX стст. Мн., 1989; Тумаш В. Пяць стагоддзяў Скарыніяны, XVI—XX: [Бібліягр.]. Нью Ёрк, 1989; Францыск Скарына: Зб. дак. і матэрыялаў. Мн., 1988; Гравюры Францыска Скарыны. Мн., 1990; Франциск Скорина и традиции гуманизма в славянской культуре: Тез. докл. и сообщений на науч. конф., посвящ. 500-летию со дня рождения Ф.Скорины, Москва, 20—21 нояб. 1990 г. Мн., 1990; Булыка А.М., Жураўскі А.І., Свяжынскі У.М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990; Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам: Бел. друкаваная літ. эпохі Рэнесансу. Мн., 1990; Яго ж. Скарынаўскі каляндар: (Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф.Скарыны). 2 выд. Мн., 1990; Немировский Е.Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность бел. просветителя. Мн., 1990; Скарына і яго эпоха. Мн., 1990; Чамярыцкі В.А. Беларускі тытан эпохі Адраджэння. М., 1990; Шматов В. Искусство книги Франциска Скорины. М., 1990; Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць; Паказ. літ. Мн., 1990; Дварчанін І. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве: Пер. з чэш. Мн., 1991; Франциск Скорина и Вильнюс: Сб. материалов Респ. науч. конф. Вильнюс, 1991; Галенчанка Г.Я. Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993; Запісы Бел. Ін-та навукі й мастацтва. New York, 1994. Кн. 21; Яскевіч А.А. Творы Ф.Скарыны: Жанравая структура. Філас. погляды. Мастацтва слова. Мн., 1995; Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць. Паказ. літ. Дад. за 1530—1988 гг., 1989—1993 гг. Мн., 1995; Беларусіка=Albaruthenica. Кн. 9. 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы 3-х Скарын. чытанняў. Мн., 1998; Агіевіч У.У. Сімволіка гравюры Скарыны. Мн., 1999; Яго ж. Імя і справа Скарыны: У чыіх руках спадчына. Мн., 2002; Nemirovskij E.L. Gesamtkatalog der Frühdrucke in kyrillischer Schrift. Bd. 5. Die Druckerei von Francisk Skorina in Wilna. Baden-Baden, 1999; Беларусіка=Albaruthenica. Кн. 20. Скарыназнаўства, кнігазнаўства, літаратуразнаўства: Матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый» (Мінск, 21—25 мая, 4—7 снеж. 2000 г.). Мн., 2001; Галенчанка Г. Францішак Скарына (каля 1490—каля 1551) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2003. Вып. 2; Скарына і наш час: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння прафесара У.В.Анічэнкі

(Гомель, 7 кастрычніка 2004 года). Гомель, 2004.

*Георгій Галенчанка.*

**Скіргайла** (у праваслаўі І в а н; каля 1354—23.12.1394?), князь полацкі, троцкі і кіеўскі ў ВКЛ. Другі сын *Альгерда* ад Юльяны Цвярской, брат *Ягайлы.* У 1374—75 удзельнічаў у войнах з крыжакамі. Пасля выгнання ў 1377 з Полацка кн. *Андрэя Альгердавіча* вял. кн. Ягайла пасадзіў там княжыць С. У 1379—80 па ініцыятыве Ягайлы зрабіў падарожжа па некалькіх краінах Еўропы, дзе абмяркоўваў умовы хрышчэння Літвы. Палачане, незадаволеныя язычніцтвам С., у 1381 выгналі яго з княжання. На чале войска Ягайлы і пры дапамозе Лівонскага ордэна ён абложыў на некалькі месяцаў Полацк, але горада не ўзяў. У гэты час прыняў праваслаўе. Калі ў канцы 1381 вялікакняжацкі трон у Вільні захапіў *Кейстут,* падначаленае С. войска прызнала ўладу новага вял. князя, а С. уцёк у Лівонію. Летам 1382 С. далучыўся да войска Ягайлы, удзельнічаў у аблозе Кейстута ў Троках. У час перагавораў з Кейстутам захапіў яго ў палон і адвёз у Крэўскі замак, дзе той быў забіты. Атрымаў ад Ягайлы Троцкае княства. З таго часу С. стаў 2-й уплывовай асобай у ВКЛ. У 1385 на чале пасольства ВКЛ прыбыў у Кракаў, каб весці перагаворы пра шлюб Ягайлы з польск. каралевай Ядвігай. У час заключэння *Крэўскай уніі 1385* забяспечыў сабе права застацца праваслаўным. У *Мсціслаўскай бітве 1386* на чале войска ВКЛ перамог смаленскага кн. *Святаслава Іванавіча* і падпарадкаваў ВКЛ Смаленскае княства. Вясной 1387 узяў Полацк, дзе захапіў у палон Андрэя Альгердавіча. 28.4.1387 Ягайла пацвердзіў права С. на валоданне Троцкім і Полацкім княствамі, даў яму Менск, Свіслач, Бабруйск, Рэчыцу, Любеч, Прапошаск, Любашаны, Ігумен, Лагойск. З 1388 узброеную барацьбу супраць С. вёў Вітаўт, які з дапамогай крыжакоў намагаўся атрымаць уладу ў ВКЛ. У выніку *Востраўскага пагаднення 1392* Ягайла фактычна прызнаў Вітаўта сваім намеснікам у ВКЛ і перадаў яму Троцкае княства, узамен Вітаўт абяцаў С. дапамагчы захапіць Кіеў. У пач. 1393 Вітаўт і С. захапілі Віцебск, дзе ўмацаваўся *Свідрыгайла,* і ўзялі яго ў палон. Вясной 1393 Вітаўт захапіў у



**Скіргайла**. Гравюра 16 ст.

кіеўскага кн. Уладзіміра Альгердавіча Жытомір і Оўруч і аддаў іх С., восенню 1893 перадаў С. Кіеў. У кастр.—ліст. 1393 С. ўдзельнічаў у паходзе Вітаўта на Падолле, захапіў Чаркасы і Звянігарад. Паводле некаторых звестак, С. быў атручаны ў Кіеве. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

*Літ.*: K r z y ż a n i a k o w a J., O c h m a ń s k i J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990; N i k o d e m J. Rola Skirgiełły na Liwie do 1394 roku // Scripta minor. Poznań, 1998. T. 2.

*Валерый Пазднякоў.*

**Скорабагаты** (В о й ш к а - С к о р а б а г а т ы) Аляксандр Дыянісій (6.9.1639—20.8.1699), ваенны дзеяч ВКЛ, мемуарыст. З шляхты Троцкага пав. У 1654 уступіў у войска ВКЛ. Удзельнічаў у буйнейшых бітвах *Паўночнай вайны 1655—60* і *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*: супраць шведскіх і брандэнбургскіх войск каля Просткаў і Філіпава ў 1656, з венграмі каля Магерава ў 1657, з рас. войскамі каля Мядзела ў 1659, у *Палонкаўскай бітве 1660*, бітве на р. Бася 1660; паранены ў *Кушліцкай бітве 1661*. Удзельнік *Хацінскай бітвы 1673*, паходаў супраць туркаў і татараў на Украіну ў 1674—76, пераможнай бітвы з татарамі каля Зінкава на Падоллі ў 1683. Падчашы рэчыцкі з 1669, гараднічы гарадзенскі з 1676, ляснічы пастуньскі. Трымаў вёскі Зверany і Хадзікоўшчына ў Гарадзенскай эканоміі. У канцы жыцця на аснове ранейшых запісаў апрацаваў мемуары ў форме дзённіка, у якіх апісаў падзеі ад свайго нараджэння. Апошнія запісы да 1710 зрабіў сын С. Тэадор Мікалай і, відаць, зяць К.Макшэцкі. Успаміны С. — важная крыніца па гісторыі ваенных падзей 2-й пал. 17 ст. Рукапіс мемуараў зберагаецца ў Цэнтр. б-цы АН Літвы.

*Тв.*: Diariusz / Opracował T.Wasilewski. Warszawa, 2000.

*Валерый Пазднякоў.*

**Скота з Пармы** (Scotto), італьянскі архітэктар 2-й пал. 16 ст. Паводле яго праекта ў 1580 перабудаваны каралеўскі палац *Гарадзенскага Старога замка*.

**скрыпторый** (ад лац. scriptor пісец), сярэдневяковая майстэрня па вырабе *рукапісных кніг*. У 6—15 ст. былі пашыраны ў Еўропе, але са з'яўленнем *кнігадрукавання* хутка заняпалі. У С. існаваў падзел працы: з узорнага арыгінала спісвалі перапісчыкі, аздобу выконвалі ілюмінатары, часта пры С. працавалі пераплётныя майстэрні. На землях ВКЛ існавалі мітрапаліцкія, дзяржаўныя, манастырскія і прыватныя С. Першыя С. вядомы ў 14—15 ст. у правасл. манастырах і пры двары кіеўскіх мітрапалітаў (да прадукцыі апошніх можна аднесці Евангелле-апракас сярэдзіны 14 ст. і *Лаўрышаўскае евангелле* пач. 14 ст., над якім працавалі некалькі перапісчыкаў і ілюмінатараў). Мітрапаліцкі С. упамінаецца дыяканам Якімцом пад 1512 пры саборнай царкве Барыса і Глеба ў Навагародку. З развіццём дзяржавы ўзнікла і атрымала развіццё *канцылярыя* ВКЛ, якой кіраваў *канцлер*. Яму і яго намесніку (*падканцлеру*) падпарадкоўваліся лацінскія і рус. *пісары*. Пісару падпарадкоўваліся дзякі, якія вялі справаводства, перапісвалі акты, тыражавалі неабходныя для дзяржавы кнігі. Асн. прадукцыяй, якая выходзіла са С. вялікакняжацкай канцылярыі, былі спісы Статутаў, хаця шэраг прафесійных пісцоў мог спісаць любыя кнігі на заказ. У канцылярыі выпрацаваўся вельмі выразны почырк-скарапіс («заходнярускі» або «беларускі»), які можна выкарыстоўваць пры атрыбуцыі кніг. У 15 ст. С. існаваў пад пратэкцыяй кн. Алелькавічаў у Слуцкім Траецкім манастыры. Адна з кніг, перапісаная ў ім, захавалася да нашых дзён — жыційны зборнік, які па загадзе *Іосіфа I* спісаў смальнянін А.С.Чэлюскін. Значным цэнтрам вырабу кніг быў Смаленск.



Узорам рукапіснай кнігі смаленскай традыцыі можна лічыць Евангелле 1449 з укладным запісам смальян Ф.Мамака, М.Бабраедава, І.Нікіфарава і Л.Максімава ў сабор св. Спаса. Пры смаленскім епіскапе Іосіфе Солтане (гл. *Іосіф II*) створаны ілюмінаваны *Радзівілаўскі летапіс*. У 1495 у Смаленску перапісаны *Аўрамкі летапіс* з рыфмаваным панегірыкам Вітаўту (гл. *«Пахвала Вітаўту»*). Найб. вядомыя манастырскія С.: Полацкі, Куцеінскі, Чарэйскі, Лешчанскі, Супрасльскі. Сярод кніг полацкай работы Лествіца 1479, Службоўнік (Чын Багаслужбы, 2-я пал. 14 ст.) і інш. У сярэдзіне 16 ст. ў Чарэйскім манастыры складзены агіяграфічны зборнік, у які ўвайшлі таксама «Жыціе святога Міколы», жыціі Афанасія Александрыйскага, Пятра Афонскага, Паўла Фівейскага і інш. святых. У 1641 у *Куцеінскім Богаяўленскім манастыры* складзены зборнік «Колляція, альбо Размова духовная, сіречь беседы преподобного Моисея»; у яго ўключана «Книга преподобного отца нашего Касіяна Рымлянина». Вядомы таксама 2 рукапісныя ірмалоі з мініяцюрамі-застаўкамі. У сярэдзіне 17 ст. праца ў куцеінскім С. спынілася з-за пераводу манахаў на чале з ігуменам Іаілем Труцэвічам у Іверскі манастыр (Расія). У *Пінскім Лешчанскім манастыры* перапіска кніг існавала ў 16 ст. У С. манастыра выпрацоўваўся асобы стыль аздобы рукапісаў, для якога характэрна наяўнасць рэнесансавых арнаментаў на палях. У С. перапісвалі і па заказу (Кормчая 1634 і інш.). Значным цэнтрам кніжнай вытворчасці быў *Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр*, дзе сярод кнігапісцаў былі і свецкія асобы. Самым плённым быў перыяд пры архімандрыце Сергію Кімбару (1532—65), які значна пашырыў вытворчасць кніг і павялічыў манастырскую б-ку. Адной з найб. значных перапісаных у супрасльскім С. кніг сярэдзіны 16 ст. быў «Віленскі хранограф» (захаваўся да нашага часу). Ён уключаў тэксты хронікі Малалы, Амартала, «Александрыі», «Гісторыі іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія. Пасля арганізацыі ў пач. 1690-х г. *Супрасльскай друкарні* пры вырабе рукапісных кніг карысталіся друкарскімі клішэ для загалоўных літар. З супрасльскага С. выйшлі Службоўнік, дадзены Багданам Ягаткоўскім у Сенніцкую царкву ў 1733, 2 спісы твораў св. Савы Дарафея (адзін у выглядзе асобнай кнігі, другі — разам з творамі Ісаака Сірына), «Павучанні» Сірына, Кірылы Іерусалімскага і інш. У ВКЛ рукапісныя кнігі выраблялі амаль у кожным каталіцкім кляштары. У *Бярозаўскім кляштары картэзіянцаў* гісторык Ю.Нямцэвіч зафіксаваў кнігапісанне яшчэ ў 2-й пал. 18 ст. Сярод рукапісных твораў у б-цы кляштара былі 2 хронікі (перапісчык і аўтар — манах Ф.Пасека). Часта кнігапісанне бралі пад сваю апеку прыватныя асобы, найчасцей буйныя магнаты. Найбольшы з прыватных С. дзейнічаў у двары Солтанаў у прадмесці Вільні — Шышкінях (цяпер у межах горада) з канца 15 да 1-й пал. 16 ст. Месца перапіскі самых старых, звязаных з сям'ёй Солтанаў кніг дакладна не вызначана. Так, Мінеі, перапісаныя ў 1487 дзякам Сенькам, магчыма, пісаліся ўжо ў Шышкінях, як і Мінея службовая, перапісаная ў 1488 пісарам Занькам. У 1496 невядомы перапісчык спісаў для Солтана Аляксандравіча Пралог. Існуе дакумент — спіс кніг Солтана Аляксандравіча. Магчыма, большая частка названых у ім кніг спісана ў С. Солтанаў. У 1537 два перапісчыкі перапісалі для яго сына Аляксандра Солтанавіча Службу святым Барысу і Глебу з парэміямі і Службоўнік. У 1545 у двары Солтанаў у Шышкінях дзяк Міхайла перапісаў для яго Багародзічнік. Радзівілы і інш. магнаты таксама мелі свае канцыляры са штатам канцылярыстаў-кнігапісцаў.

*Мікола Нікалаеў.*

**слабада,** тып сельскага паселішча ў ВКЛ. Назва звязана з тым, што жыхары С. карысталіся часовым вызваленнем ад платы падаткаў. У зах. рэгіёнах Беларусі (асабліва ў Пінскім Палессі) такія пасяленні называліся Волямі, Вулькамі. Гэтыя назвы набывалі паселішчы, жыхары якіх вызваляліся (станавіліся вольнымі) на тэрмін ад 2 да 12 гадоў ад чыншу і павіннасцей з прычыны неўрадлівасці зямель, якія яны на інш. умовах адмаўляліся апрацоўваць. Такая сістэма асабліва пашырылася пасля Паўн. вайны 1700—21. Дзеля засялення абязлюдзелых валасцей магнаты рознымі льготамі прыцягвалі сялян на свае землі. Так, у Быхаўскім графстве на рынках у 1760 агалошваўся універсал Сапегі, які гарантаваў навасёлам «вольнасць» ад павіннасцей на 6 гадоў. Пазней С. сталі называць невял. пасёлкі гар. тыпу каля павятовых гарадоў, дзе жылі рамеснікі, што пакінулі абшчыну і былі звязаны з сельскай гаспадаркай толькі часткова. Пад уплывам розных сацыяльна-эканам. і паліт. прычын С. зліліся з гарадамі або трансфармаваліся ў звычайныя сельскія паселішчы.

*Уладзімір Гуркоў.*

**Слаўгарад**, горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр раёна, гл. *Прапойск*.

**«Слепаўрон»**, прыватнаўласніцкі герб, якім у Беларусі, Літве, Украіне і Польшчы карысталіся больш за 350 родаў, у т.л. Гасеўскія, Касакоўскія, Красінскія, Пуласкія. У блакітным полі срэбраная падкова канцамі ўніз, на ёй сярэбраны кавалерскі крыж, на якім сядзіць чорны крумкач з залатым пярсцёнкам у дзюбе; клейнод — над прылбіцай з каронай такі самы крумкач з пярсцёнкам. Вядомы з сярэдзіны 14 ст. У 16 ст. ад герба «С.» утварыўся герб *«Корвін»*.

**Слесарунас** (Sliesoriūnas) Гінтаўтас (н. 25.10.1964, г. Вільнюс, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1997). З 1996 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы. Даследуе паліт. гісторыю ВКЛ 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст., яго ўзаемадачыненні з Польшчай. Аўтар кнігі «Напярэдадні ўнутранай вайны ў Вялікім княстве Літоўскім: барацьба вялікіх груповак 1690—1697 гг.» («Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais», Вільнюс, 2000).

*Тв.*: Problem separatyzmu Wielkiego Księstwa Litewskiego w końcu XVII wieku // Rzeczpospolita wielu narodów i jej tradycje. Kraków, 1999; Sejmiki nowogródzkie w okresie bezkrólewia 1696/97 r. a nadanie językowi polskiemu statusu urzędowego w Wielkim Księstwie Litewskim // Między Wschodem a Zachodem. Toruń, 2001; Walka stronnictw w przededniu i podczas wojny domowej na Litwie XVII/XVIII wieku // Władza i prestiż. Białystok, 2003; Wywiad moskiewski o wydarzeniach w Wielkim Księstwie Litewskim na przełomie wieku XVII i XVIII // Między Zachodem a Wschodem. Toruń, 2005.

**Слесарунас** (Sliesoriūnas) Феліксас (н. 17.7.1931, в. Шляпяй Уцянска-

га р-на, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1971). Скончыў Вільнюскі ун-т (1959). З 1962 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы, у 1979—93 — у Вільнюскім пед. ін-це (цяпер Вільнюскі пед. ун-т). Даследуе гісторыю ВКЛ 17—18 ст., гісторыю Вільні, паўстанне 1830—31.

*Тв.*: 1830—31 metų sukilimas Lietuvoje. Vilnius, 1974; Gedimino aikštė Vilniuje. Vilnius, 1980; Vilniaus pedagoginis universitetas, 1935—1995 metai. Vilnius, 1995; Respublikos pedagoginis institutas, 1935—1943. Vilnius, 1998; Mūšis prie Vilniaus ir miesto nusiaubimas 1734 metais // Lietuva ir jos kaimynai. Vilnius, 2001; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės generalinė Konfederacija 1734—1736 m. // Lietuvos istorijos metraštis, 2001 metai. Vilnius, 2002. T. 1; Georgo von Lieweno misija Lietuvoje 1733 m. pavasarį // Istorijos akiračiai. Vilnius, 2004.

**Слёзка** Міхаіл (?—1667), майстар-друкар, пісьменнік. Паходзіў з Беларусі. Яго спадчынная маёмасць (2 крамы бацькоў у Навагародку) загінула ў час пажару 1616, што вымусіла С. пакінуць радзіму. У наступныя гады ён працаваў у друкарнях Вільні і, магчыма, Кіева-Пячэрскай лаўры. У пач. 1620-х г. уступіў у Львоўскае Успенскае брацтва, у 1633—37 і 1643—48 узначальваў брацкую друкарню ў Львове, удзельнічаў у выступленнях брацтва супраць нац.-рэліг. прыгнёту укр. насельніцтва. У 1638 распачаў сваю выдавецкую справу і заснаваў уласную друкарню. Асн. частку выдавецкай прадукцыі С. складалі кнігі на кірыліцы, пераважна богаслужэбныя выданні, чэцці, а таксама навучальныя дапаможнікі, творы укр. пісьменнікаў. За гады дзейнасці С. выдаў каля 50 кніг (амаль трэцюю частку ад усіх, што выйшлі з укр. друкарняў) на царк.-слав., укр., лацінскай і польск. мовах, у т.л. філасофскі трактат М.Кароны «Уступ да разумення лагічных і філасофскіх тэрмінаў», кнігі І.Калятоўскага «Неба новае» і «Ключ разумення», панегірык І.Пракаповіча ў гонар А.Жаліборскага, свецкае выданне папулярнага твора М.Жураўскага «Эфемерыды, або Каляндар». У прадмове да Апостала 1639 С. выступіў супраць спробы ўлады і царк. іерархаў абмежаваць свабоду выдавецкай дзейнасці. Кнігі С. разыходзіліся на Украіне, Беларусі, траплялі ў паўд.-слав. краіны, Расію. Пасля яго смерці друкарню ў 1670 выкупіла Львоўскае брацтва.

*Літ.*: Исаевич Я.Д. Типография Михаила Слезки и ее роль в межславянских культурных связях // Федоровские чтения, 1973. М., 1976; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI—середине XVII в. Мн., 1989. С. 52—54.

**Слізні**, шляхецкі род уласнага герба. Паходзяць ад паўлегендарнага Ратшы. Яго праўнук Гаўрыла Алексіч, баярын кн. Аляксандра Неўскага, вызначыўся ў Лядовым пабоішчы 1240. Сын Гаўрылы Алексіча Акінф Вялікі служыў цвярскому кн. Міхаілу Яраславічу, а яго дзеці і ўнукі — маскоўскім вял. князям. Яго ўнук Андрэй Іванавіч меў 8 сыноў: Фёдара Свіблу, Івана Храмога, Аляксандра Асцея, Івана Бутурлю, Андрэя Слізня, Міхаіла Фёдара Карову і Івана Зялёнага. Ад Андрэя пайшоў род, які ў Расіі меў прозвішча Слізневы, а ў ВКЛ — С. Іван Андрэевіч Толпык-Слізень, паводле некаторых звестак, быў прызначаны вял. кн. Вітаўтам ваяводам бранскім. З яго сыноў Астафій пасля страты Бранскай зямлі ВКЛ атрымаў на Ашмяншчыне вёскі Матыкі, Курзін, Узла, Княгінін і Студзёнкі. Яго сын Павел, стольнік ашмянскі, меў сына Рыгора, падсудка ашмянскага. Найб. вядомыя:



Да арт. **Слізні**. Супольны герб Міхала Слізня, падканюшага ВКЛ, і яго жонкі Элеаноры з Хлусовічаў. Гравюра. 1755.

Аляксандр (1579 —11.1.1651), сын Рыгора. Стольнік ашмянскі, староста мядзельскі, выбіраўся пасла на соймы, дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Каралеўскі сакратар, двойчы ездзіў пасла у Маскву.

Аляксандр, сын Аляксандра. Ашмянскі падстолі, стольнік з 1648, пасол на соймы, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1654 і 1680. Ад яго сыноў Стафана Яна, Міхала Брунова і Андрэя пайшлі 3 лініі роду.

Стафан Ян (? — да 5.7.1707), сын Аляксандра. Ашмянскі падстараста ў 1681 і пісар земскі ў 1683, рэферэндар ВКЛ з 1705, староста крэўскі, пасол на сойм 1696, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1705.

Міхал (? — 11.11.1760), сын Стафана Яна. Палкоўнік, староста крэўскі ў 1736, падканюшы ВКЛ з 1736. Быў 12 разоў пасла на соймы, тройчы дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Валодаў мяст. Палошка ў Ваўкавыскім пав., Маняkaўшчынай у Слонімскім пав., Дзевяткавічамі ў Ашмянскім пав. і інш.

Стафан (? —1780 ?), сын Міхала. Староста крэўскі, падкаморы слонімскі з 1756, генерал-маёр войска ВКЛ.

Міхал Брунон (? — да 12.5. 1729), сын Аляксандра. Генеральны стражнік войска ВКЛ з 1698, падстолі ашмянскі ў 1708—15, пісар скарбовы ВКЛ з 1715.

Юзаф (?—1751), сын Міхала Брунона. Староста плоцельскі, генерал-ад'ютант войска ВКЛ.

Міхал (?—1796?), сын Юзафа. Смаленскі стольнік з 1767 і суддзя земскі з 1781, бабруйскі маршалак, кавалер ордэна св. Станіслава (1791).

Рафал (?—2.6.1817), сын Юзафа. Стольнік старадубскі ў 1776—82, інстыгатар ВКЛ з 1782; староста крэўскі з 1781, генерал-ад'ютант войска ВКЛ, кавалер ордэнаў св. Станіслава і Белага Арла.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Слонім** (цяпер горад, цэнтр Слонімскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Слонімскага павета*, на р. Шчара пры ўпадзенні ў яе р. Іса. Упершыню ўпамінаецца пад 1252. Уваходзіў у Галіцка-Валынскае княства. З 2-й пал. 13 ст. ў складзе ВКЛ. Слонімская харугва прымала ўдзел у *Грунвальдскай бітве 1410*. Пасля *Гарадзельскай уніі 1413* С. уключаны ў Троцкае ваяв. Ад імя вял. князя горадам кіраваў староста (у 16 ст. слонімскімі старастамі былі Р.Валовіч, Л.І. і К. Сапегі і інш.). 20.1.1532 С. атрымаў маг-



Герб **Слоніма**. 1591.

дэбургскае права, пацверджана ў 1591 (тады ж дадзены герб: залаты леў з сярэбраным гербам «Касцеша» на лапе ў блакітным полі) і ў 1679, у 1776 скасавана. З 1558 у С. паводле прывілея Жыгімонта II Аўгуста праводзіліся 2 кірмашы штогод. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. ў С. збіраўся *соймік галоўны* ВКЛ. У горадзе існавалі *Слонімскі кляштар бернардзінак, Слонімскі кляштар бернардзінцаў*, кляштар бенедыкцінак, *Слонімскі Андрэеўскі касцёл*, сінагога. У выніку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад заняпаў. Эканам. ўздым С. звязаны з дзейнасцю слонімскага старасты, гетмана М.К.*Агінскага*, які ў 2-й пал. 18 ст. заснаваў тут сваю рэзідэнцыю, стварыў *Слонімскую друкарню, Слонімскі тэатр Агінскага, Слонімскую капэлу Агінскага, Слонімскую балетную школу*, пабудаваў *слонімскія мануфактуры* і інш. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Милаковский М. Описание города Слонима. Гродно, 1891; Романовский И.О. Положение гор. Слонима в Литовской державе. Гродно, 1895; Я г о ж. Прошлое из жизни города Слонима. Гродно, 1898; Мелешко В.И. Слоним: Ист. очерк. Мн., 1962; Караткевіч В.Б., Кулагін А.М. Помнікі Слоніма. Мн., 1983; Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме: Пер. з ням. Мн., 1993; Супрун В. За смугою часу. Мн., 1994.

**Слонімская балетная школа**. Дзейнічала ў 2-й пал. 18 ст. пры *Слонімскім тэатры Агінскага*. З 1777 існаваў невял. балетны ансамбль (8 чал.), падрыхтаваны балетмайстрам Ноакам. У 1781 пад яго кіраўніцтвам школа ўкамплектавана, у 1785 мела 18 вучняў, пасля 1790 больш. Спачатку сярод вучняў пераважалі дзеці прыдворных музыкантаў, у апошнія гады існавання тэатра — прыгонных сялян. Вучні атрымлівалі і некаторую агульную адукацыю. Росквіт школы і падрыхтаванай ёю трупы звязаны з дзейнасцю балетмайстра і кампазітара Ф.Марыні (каля 1781—88) і вядомага характарнага танцоўшчыка, саліста і балетмайстра Ф.Шлянцоўскага (прыбыў паміж 1785—88, працаваў да 1792). У лютым 1788 чатыры выхаванцы выступалі ў Варшаве ў балеце «Рыбакі», у сезон 1790—91 група прыблізна з 20 чал. паказала 4 спектаклі на гастролях у Дубне. У чэрв. 1792 С.б.ш. і балетная трупа цалкам ці часткова пераведзены ў Целяханы, дакладная дата іх роспуску невядома.

**Слонімская друкарня**. Існавала ў 1777(?)—82(?) у *Слоніме*. Належала мецэнату М.К.*Агінскаму*, размяшчалася ў яго палацы. Першае яе выданне — «Рэлігійны культ Брунона, патрона картузаў» (1777, на лацінскай мове) — выйшла з удзелам дамініканцаў. На польскай і італьянскай мовах выдадзена «Кніжка для дзяцей, або Уяўленне аб прадметах, якія дзеці павінны вывучаць» (1778), на польск. — напісаныя, як мяркуюць, Агінскім лібрэта опер «Сілы свету», «Становішча саслоўяў», «Елісейскія палі» (каля 1781).

*Літ.*: Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; Рощина Т. Слоним в истории книжной культуры Великого княжества Литовского XVIII века: книгоиздание и книгособирание // Kultura książki ziem wschodnich i południowych pogranicza Polski (XVI—XX wiek). Katowice, 2004.

***Георгій Галенчанка.***

**Слонімская езуіцкая рэзідэнцыя**, установа ордэна езуітаў у *Слоніме*, у 1709—25 місія Навагародскага езуіцкага калегіума, у 1725—73 рэзідэнцыя. Першыя спробы стварэння місіі зроблены ў 1664—65. У пач. 18 ст. зямельныя наданні слонімскім езуітам рабілі жамойцкі кашталян А.Уніхоўскі, муж і жонка Талаканскія, М.Кошчыц, пробашч Віленскай кафедры ксёндз П.Палубінскі. Першы драўляны касцёл св. Юзафа ўзведзены ў 1713—15, другі мураваны будаваўся з 1740 (не быў завершаны). Пры місіі дзейнічалі школы: граматыкі (з 1713), паэтыкі і рыторыкі (з 1714). У 1736 пры рэзідэнцыі створана школа філасофіі, з 1750 вывучаліся гісторыя і матэматыка. Мелііся муз. бурса, канвікт (інтэрнат) для дзяцей збяднелай шляхты, б-ка. У розны час місіі і рэзідэнцыі належалі маёнткі: Вішаў, Грынькі, Дабосня, Шулякі, дзейнічалі місіі ў Ваўкавыску і Дабосні. Пасля скасавання рэзідэнцыі школа пераўтворана ў павятовае вучылішча. Будынкі не захаваліся.

**Слонімская капэла Агінскага**, прыдворны аркестр гетмана М.К.*Агінскага*. Існавала ў 1765(?)—93. Абслугоўвала паказы *Слонімскага тэатра Агінскага*, балі, касцельныя службы, рабіла канцэртныя паездкі (напр., у 1780 у Шклоў). Сучаснікі адзначалі высокі прафесійны ўзровень аркестра, наяўнасць уласнага выканальніцкага стылю. Спачатку капэла складалася з 12 чал., у 1776 мела вял. ансамбль інструменталістаў і вакалістаў (53 чал.) на чале з Ю.Паўлі, А.Данезі і Я.Стэфані. У капэле былі 24 прыгонныя музыканты, у т.л. Райскі (працаваў у Слоніме ў 1775—80), невял. колькасць замежных музыкантаў (нямецкія, чэшскія і італьянскія спевакі, інструменталісты і дырыжоры, сярод якіх К.Чыпрыяна). Росквіт дзейнасці капэлы прыпадае на 1780. З 1-й пал. 1780-х г. яна пачала занепадаць, яе склад паменшаў — многія замежныя музыканты перайшлі ў Нясвіжскую капэлу Радзівілаў. Часовы ўздым капэла і тэатр Слоніма перажылі ў канцы 1780-х — пач. 1790-х г., аднак на 1.1.1792 у аркестры было толькі 12 музыкантаў, і ён не складаў мастацкага цэлага.

**Слонімскі Андрэеўскі касцёл**. Заснаваны ў *Слоніме* каля 1490 вял. кн. Казімірам IV, быў драўляны. Новы будынак узведзены Л.Сапегам у 1595, перабудаваны ў 1660. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1775, рэстаўрыраваны пасля 1-й сусветнай вайны. 1-нефавы храм з 2-вежавым гал. фасадам. Неф, алтарная чатка і сіметрычныя бакавыя сакрыстыі прамавугольныя ў плане, маюць сціплае дэкаратыўнае аздабленне. Вежы пастаўлены пад вуглом да гал. фасада, што надае яму хвалістую прасторавую структуру. Гал. фасад багата дэкарыраваны слаістымі пілястрамі, фігурным франтонам, ва-



Слонімскі Андрэеўскі касцёл.

лютамі, раскрапоўкамі, глыбокімі нішамі і інш. У інтэр'еры неф перакрыты паўцыркульным скляпеннем з распалубкамі. У паўн. частцы храма — хоры. На тарцовай сцяне над уваходам — фрэскавая размалёўка: пілястры з ракайлямі, фігуры анёлаў, музычныя атрыбуты (інструменты), ваза. Каларыстычная гама — светла-блакітная, белы і ружовы тоны, пазалота. Гал. пластычна-дэкаратыўным акцэнтам з'яўляецца цэнтр. стукавы алтар у выглядзе порціка са здвоенымі карынфскімі калонамі, завершаны трохвугольным франтонам. Уздоўж схілаў франтона размешчаны стукавыя фігуры анёлаў. На бакавых сценах прэсбітэрыя прамавугольныя акаймаваныя ілюзорнай рамкай жоўта-карычневага колеру фрэскавыя кампазіцыі на біблейскія сюжэты («Хрыстос у храме», «Уцёкі ў Егіпет»).

***Тамара Габрусь, Вольга Церашчатава.***

**Слонімскі кляштар бернардзінак.** Існаваў у *Слоніме* з 1640-х г. да пач. 20 ст. Заснаваны Е.Юдзіцкай-Салятыцкай, якая купіла бернардзінкам пляц з дваром за 3 тыс. злотых. Браты З. і К. Працлаўскія дакупілі кляштару суседнія пляцы за 1500 злотых. З 1645 існаваў драўляны касцёл Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Марыі (згарэў у 1656). Першыя манашкі прыбылі сюды з віленскага кляштара св. Міхала. Маёмасць кляштара складалася з пасагаў, агарода і капіталу ў 10 тыс. злотых ад Юдзіцкай. У 1670—96 пабудаваны мураваны касцёл пад ранейшай назвай (асвячоны віленскім біскупам К.Бжастоўскім 4.12.1696). У 1760-я г. інтэр'ер касцёла аздоблены майстрам Гедэлем паводе праекта Я.Глаўбіца стукавай лепкай (алтары, амбон), тады ж пабудаваны 2-павярховы жылы корпус. Паслушніцы навучаліся музыцы, вышыванню, французскай мове. З 1696 пры кляштары існавала брацтва св. Міхала. Касцёл дзейнічае, у корпусе кляштара размешчаны шпіталь.

*Літ.*: Klasztory bernardyńskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria Zebrzydowska, 1985.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Слонімскі кляштар бернардзінцаў.** Існаваў у *Слоніме* ў 1630—1864. Заснаваны па ініцыятыве Я.Жарскага і А.Лукашэвіч. 30.5.1639 каралеўскі сакратар А.Радван заклаў фундамент мураванага касцёла Св. Тройцы (кіраўнік будаўнічых работ мулярскі майстар С.Тарашкевіч з Нясвіжа). У 1655 касцёл згарэў. Адбудаваны ў 1671, асвячоны біскупам М.Слупскім. У 1668 і 1750 пры касцёле прыбудаваны капліцы Працлаўскіх і Слізняў. У 1866 касцёл перароблены на царкву, цяпер — Троіцкі правасл. сабор, у будынку кляштара — інтэрнат.

*Літ.*: Klasztory bernardyńskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria Zebrzydowska, 1985.

***Аляксандр Ярашэвіч.***



Слонімскі кляштар бернардзінцаў. Касцёл.

**Слонімскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ. Папярэднікам С.п. было Слонімскае намесніцтва, якое з 1413 уваходзіла ў *Троцкае ваяводства*. У выніку адм.-тэр. рэформы 1565—66 С.п. атрымаў акрэсленыя межы і быў уключаны ў *Новагародскае ваяводства*. У яго склад увайшлі Слонімскае, Моўчадскае і Здзітаўскае дзярж. старасты і вял. колькасць шляхецкіх маёнткаў, найб. з іх Дзярэчын, Здзяцел (Дзятлава), Ружаны. На тэр. павета знаходзіўся *Жыровіцкі Успенскі манастыр*. С.п. меў паветовую харугву чырвонага колеру з выявай «Пагоні». Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Слонімскі тэатр Агінскага**, прыдворная тэатральная трупа гетмана М.К.*Агінскага* ў *Слоніме*. Заснаваны да 1771, спыніў дзейнасць пасля 1791. У тэатры працавалі прафесійныя італьянскія, нямецкія, польск. спевакі, хор і балет. Балетная трупа падрыхтавана ў *Слонімскай балетнай школе*. Паказы суправаджала *Слонімская капэла Агінскага*. У 1770—80-я г. пры тэатры існавала музычная школа. Рэпертуар тэатра складаўся з балетаў «Каралеўскі балет», «Балет млынароў», «Дзікі балет», «Дэзерцір» (1790—91), опер італьянскіх кампазітараў, у т.л. «Тэлемак» Дж.Таэскі (1780), самога Агінскага «Зменены філосаф» (1771), «Елісейскія палі» (1788), а таксама, як мяркуюць, «Сілы свету» і «Становішча саслоўяў» (1784), трагедыі Вальтэра і інш. Паводле «Інвентара інструментаў і музычных папер», складзенага ў 1801 пасля смерці Агінскага, збор нот твораў, што выконваліся на розных сцэнах, уключаў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 інш. музычных твораў. Філіялы тэатра працавалі ў Седльцах (Польшча) і Целяханах. У 1771 функцыяніраваў «Плывучы тэатр» на баржах на Агінскім канале; паміж 1777—80 пабудаваны «Дом оперы» («Опергаўз») (архітэктар І.Мараіна; разбураны пасля 1804), які меў вял. сцэну, прыстасаваную для паказаў любых барочных спектакляў, у т.л. оперных і балетных, для выхаду вял. колькасці спевакоў і статыстаў, для тэатралізаваных баталій коннікаў і водных феерый. Тэхнічныя магчымасці сцэны дазвалялі паказаць і 2 фанта-

**СЛОНІМСКІ ПАВЕТ у канцы XVI ст.**

НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

паводле адміністрацыйнага значэння:
- Цэнтр ваяводства
- Цэнтр павета
- Цэнтр буйнейшага ўладання (воласці)
- Іншыя населеныя пункты

паводле прыналежнасці:
- Дзяржаўная ўласнасць
- Шляхецкая ўласнасць
- Уласнасць каталіцкай царквы
- Уласнасць праваслаўнай царквы

паводле тыпу паселішча:
- СЛОНІМ — Гарады
- Здзітаў — Мястэчкі
- *Літва* — Вёскі

ЛІЧБАМІ НА КАРЦЕ ПАЗНАЧАНЫ ВЁСКІ:
*1.Блошная, 2.Вераб'евічы, 3.Пятралевічы, 4.Чамяровічы, 5.Рахавічы, 6.Кошлавічы, 7.Залессе, 8.Гуменікі*

Замкі ў населеных пунктах

Найважнейшыя дарогі

Маштаб 1:850 000

8,5 0 8,5 17км

МЕЖЫ
- ваяводстваў
- паветаў


Аўтар карты М.Ф.Спірыдонаў

ны, якія пачыналі біць на сцэне і асвятляліся бенгальскімі агнямі. Сярод шматлікіх мастакоў тэатра Ян Рустэм (1788—90).

*Літ.*: Барышаў Г.І. Слонімскі тэатр М.Агінскага // Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1.; Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба муз» у Слоніме: Пер. з ням. Мн., 1993.

**СЛОНІМСКІЯ ВЫСТУПЛЕННІ СЯЛЯН.** Адбываліся ў 2-й пал. 17—канцы 18 ст. У 2-й пал. 17 ст. ў абставінах гаспадарчай разрухі, выкліканай вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і недахопам грошай у скарбе, сялянам Слонімскага стараства былі выдадзены каралеўскія граматы, якія часткова замянялі паншчыну грашовым чыншам, а вёскі Какошчычы, Кракотка, Лапухава, Мяльканавічы, Пераралока, Саленкі, Сасноўка, Сялявічы, Чамяры, Якуцічы дамагліся права «сядзець» на «голым» чыншы. Калі трымальніца старства Ганна Сапега (жонка віленскага ваяводы, вял. гетмана ВКЛ П.Сапегі) запатрабавала ад сялян выканання паншчыны і інш. павіннасцей адпаведна даўнейшым інвентарам, яны не пагадзіліся з гэтым. Асабліва актыўна выступалі сяляне, якія былі на «голым» чыншы. Па скарзе Г.Сапегі ў 1676—79 задворны асэсарскі суд абавязаў сялян выконваць даўнейшыя павіннасці, аднак яны адмовіліся выконваць паншчыну, у выніку чаго ў час жніва летам 1701 увесь панскі ўраджай гніў на палях і збіраць яго давялося восенню з дапамогай наёмных людзей. У кастр. 1701 Г.Сапега скардзілася ў слонімскі гродскі суд, што сяляне паднялі бунт і адмовіліся выконваць не толькі паншчыну, але і астатнія павіннасці, у выніку чаго прычынена страта ў 7 тыс. злотых. У 1720 хваляванні ахапілі Загжывальскае, Любішэцкае, Мяльканавіцкае і Чамяроўскае войтаўствы. У 2-й пал. 18 ст. адбыліся выступленні служылых людзей шэрагу баярскіх і канюшных вёсак Слонімскага старства. Да сярэдзіны 18 ст. яны «сядзелі» на грашовым чыншы. У пач. 1750-х г. зроблена спроба павялічыць іх павіннасці. Па скарзе сялян гэтых вёсак кароль сваім прадпісаннем абавязаў слонімскага старасту не прыцясняць іх, а ўтрымліваць у адпаведнасці з даўнімі правамі. Аднак сялян абклалі павялічанымі грашовымі падаткамі. Гэта выклікала



супрацiўленне сялян-слуг. У 1765 сойм, пасля таго як яны накiравалi чарговую скаргу, стварыў спец. камiсiю для разгляду справы на месцы. Рашэннем камiсii сяляне папярэджвалiся аб тым, што калi яны не пачнуць выконваць цяглыя павiннасцi, то ў iх вёскi будзе накiравана войска. У 1771 Агiнскi, новы ўладальнiк Слонiмскага старства, прыслаў у Кракотку i Лапухава полк лiт. татараў, якiя гвалтам прымушалi сялян падпiсваць «добраахвотнае, вольнае пагадненне», паводле якога яны замест паншчыны абавязалiся плацiць павялiчаны чынш. Але «згода» была часовай. У крынiцах канца 1780-х г. паведамляецца пра непадпарадкаванне сялян трымальнiку Слонiмскага старства на працягу некалькiх дзесяцiгоддзяў.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982; Гiсторыя сялянства Беларусi. Т. 1. Гiсторыя сялянства Беларусi са старажытнасцi да 1861 г. Мн., 1997.

***Васіль Мялешка.***

**Слонімскія замкі**. Існавалі ў *Слоніме* ў 13—18 ст. Размяшчаліся на левым беразе р. Шчара. Умацаваным цэнтрам сярэдневяковага Слоніма быў Верхні замак, які займаў узвышша плошчай 150 х 200 м. Замкавая пляцоўка мела форму няправільнага прамавугольніка, узвышалася над ракой на 3—4 м, была ахавана ровам шырынёй 15—18 м і глыбінёй каля 8 м. У 14—18 ст. побач з Верхнім размяшчаўся Ніжні замак, які займаў падковападобную пляцоўку, ахоўваўся земляным валам і вадзяным ровам. Нягледзячы на наданне ў 1532 Слоніму магдэбургскага права, ён у адрозненне ад інш. падобных гарадоў ніколі не меў уласна гар. умацаванняў. З ПдЗ горад абкружалі высокія ўзвышшы, што панавалі над усёй ваколіцай, і ўзвядзенне каля іх падножжа абарончых збудаванняў не мела сэнсу. Аднак на стыку гандлёвых шляхаў была размешчана сістэма ўмацавання з цэркваў і кляштараў, якая запірала ўезды-выезды з горада. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 яны ўсё ж не змаглі абараніць у 1655 абязлюдзелы Слонім. Пазней умацаванні С.з. былі адноўлены і праіснавалі да канца 18 ст.

**слонімскія мануфактуры**. Існавалі ў *Слоніме* ў 2-й пал. 18 ст., выраблялі шаўковыя тканіны, «персідскія» дываны, кілімы і інш. тканыя рэчы. Заведзены вял. гетманам ВКЛ М.К.*Агінскім*. Росквіт вытворчасці дываноў прыпадаў на 1788—92. Узоры вырабаў невядомы.

**слугі**, гл. *Сяляне-слугі*.

**слугі прыказныя**, у ВКЛ слугі, перададзеныя («прыказаныя») адным панам другому. Былі людзьмі вольнымі, паводле юрыд. актаў, у т.л. Статутаў ВКЛ 1529, 1566, 1588, выразна адрозніваліся ад *айчызных людзей*. Гэта засведчана ў асобным артыкуле Статута 1529. У Статутах 1566 і 1588 пан, які аддаў («прыказаў») свайго слугу інш. пану, названы «прыказцам». Статуты прадугледжвалі пэўную адказнасць С.п. за шкоду, прычыненую «прыказцу», і за ўцёкі ад новага пана. У Статуце 1588 С.п. разглядаюцца нароўні з «людзьмі вольнымі пахожымі» (гл. *Людзі пахожыя*). У тэксце сустракаецца таксама выраз: «людзі вольныя прыказныя, пахожыя».

***Анатоль Грыцкевіч.***

**служба**, 1) сялянскі зямельны ўчастак у ВКЛ да аграрнай рэформы Жыгімонта II Аўгуста і правядзення *валочнай памеры* ў 1557. Адна з адзінак абкладання сялян феад. павіннасцямі (побач з *дварышчамі*). У 16 ст. захоўвалася як пераржытак даўняй тэрытарыяльнай *грамады*, аднак была меншая за дварышча. Звычайна С. знаходзілася ва ўладанні і карыстанні 2 і болей двароў. М.В.Доўнар-Запольскі лічыў, што ў С. ўваходзілі 3—4 дымы (двары). 2) Асноўная адзінка абкладання феад. павіннасцямі сялян-даннікаў у 16 ст., у падняпроўскіх валасцях да пач. 17 ст. 3) Адзінка для вымярэння вайсковай службы баяр-шляхты ў 15—16 ст., роўная сялянскай С. З 1502 у войска выстаўлялі аднаго конніка ад 10 С., з 1521 — ад 5 С. У 1528 з кожных 8 С. баярын-шляхціц павінен быў выставіць на земскую службу (у феад. апалчэнне) аднаго конніка, першым коннікам быў ён сам. У 1529 выстаўляліся коні ад агульнай нормы 8 С. і коні ад няпоўнай нормы — ад 1 да 7 С. (пры горшым узбраенні). У 1544 ад 10 С. у апалчэнне ішоў адзін коннік.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Том 1. Киев, 1901; Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**служкі**, катэгорыя *сялян-слуг* у ВКЛ у дзяржаўных уладаннях, якія выконвалі кур'ерскія і інкасатарскія абавязкі: перавозілі лісты і суправаджалі да Вільні грошы, сабраныя як падаткі з насельніцтва ўладання. Камплектаваліся з *путных баяр*, іх колькасць вызначалася патрэбамі ўладання. У сярэдзіне 16 ст. службу выконвалі з 2 валок зямлі. У сярэдзіне 17 ст. з-за злоўжыванняў адміністрацыі ўладанняў, а таксама па просьбах саміх С. іх пераводзілі на *чынш*. У 2-й пал. 17 ст. С., якія працягвалі выконваць кур'ерскую службу, дадаткова абцяжарваліся выплатай чыншу і абавязкам транспартаваць с.-г. грузы. У 18 ст. ін-т С. фактычна перастаў існаваць. Яны захаваліся толькі ў некаторых уладаннях (Берасцейская эканомія), у інш. іх функцыі выконвалі путныя баяры або ўся валасць. З 17 ст. назва «С.» ўжывалася рэдка і замянялася назвай «путныя баяры». У прыватных уладаннях абавязкі С. выконвалі ў асн. путныя баяры і *зямяне*. Для баяр гэта была асн. павіннасць, а для зямян — другасная, пасля абавязкаў ваеннай службы.

***Алесь Доўнар.***

**Служкі**, шляхецкі род, гл. *Слушкі*.

**служылыя людзі**, назва асоб у ВКЛ, якія знаходзіліся на дзяржаўнай або прыватнай (магнацкай ці шляхецкай) службе; сустракаецца ў дакументах 16—18 ст. Часцей гэты тэрмін ужываўся да дзярж. службоўцаў сярэдніх і ніжэйшых рангаў; у 14—17 ст. ён найчасцей адпавядаў тэрміну *сяляне-слугі* (путныя, панцырныя і інш.). Асобную групу складалі ваенна-служылыя людзі, у якую ўваходзілі дробная шляхта, *зямяне*, *выбранцы*, *баяры* і бел. татары. С.л. складаліся са шляхты і вольных людзей нешляхецкага саслоўя. За сваю службу яны мелі ўчасткі зямлі, пэўныя льготы і прывілеі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у рас. дакументах пад С.л. мелася на ўвазе ваенна-служылая шляхта і інш. На Беларусі С.л. называлі і тых, што далі

прысягу і служылі цару Аляксею Міхайлавічу, і тых, што працягвалі служыць у войску ВКЛ.

*Літ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**служэбнікі**, ніжэйшая катэгорыя службовых асоб дзяржаўнага або прыватнаўласніцкага кіравання ў ВКЛ у 14—17 ст. С. маглі быць шляхціцы, мяшчане, баяры і сяляне. Вышэйшую групу С. складалі дваране пры гаспадарскім двары (у 1565 пры двары Жыгімонта II Аўгуста іх было 118 чал.). У Статуце ВКЛ 1588 шэраг артыкулаў акрэслівае прававое становішча службовых асоб, якія «за пенези служать». С. былі пісарамі, слугамі дворнымі, «яко люди служэбные, езные и пешие, в полю и на замках», збіралі даніну, прыводзілі ў выкананне пастановы органаў дзярж. кіравання і суда, наглядалі за пабудовай і рамонтам замкаў, мастоў, дарог, за парадкам у судах (*возны, віж*). *«Устава на валокі» 1557* рэгламентавала правы і абавязкі сельскіх службовых асоб, якія карысталіся за службу 2 вольнымі валокамі зямлі. У гарадах меліся слугі месцкія, магістрацкія, купецкія. Граматай Жыгімонта I Старога ад 2.10.1511 забаранялася пісарам і іх слугам ездзіць у прыдняпроўскія і задзвінскія воласці збіраць даніну з сялян, бо «мають они сами, на тые вышей писаные роки, дань нашу грошовую, и медовую, и бобровую, и куничную до скарбу и до ключа нашого относити».

*Літ.*: Любавский М.К. Литовско-русский сойм. М., 1900; Довнар-Запольский М.В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905.

***Язэп Юхо.***

**Слуцк** (цяпер горад, цэнтр Слуцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Слуцкага княства*, на р. Случ. Упершыню ўпамінаецца пад 1116, адзін з гарадоў Тураўскай зямлі. З 1160 цэнтр удзельнага княства. З 1320—30-х г. у складзе ВКЛ. З 1395 уласнасць кн. *Уладзіміра Альгердавіча* і яго нашчадкаў князёў *Алелькавічаў*, у 1612—95 і 1744—1832 — князёў *Радзівілаў*. З 15 ст. буйны горад, меў Верхні, Ніжні і Новы замкі (гл. *Слуцкія замкі*). У 1433 цэнтр выступлення бел. феадалаў суп-



Герб **Слуцка**. 1652.

раць вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча. У 1441 атрымаў абмежаванае самакіраванне паводле магдэбургскага права. У пач. 16 ст. падвяргаўся нападам крымскіх татараў, у выніку разбурэння С. і засялення навапасяленцамі князі фактычна скасавалі самакіраванне. З 1507 у складзе Навагародскага пав., меў замкавы суд, апалчэнне. З 1586 дзейнічалі правасл. брацтва пры Праабражэнскім манастыры, з 17 ст. — Успенскае брацтва. У 1593 каля 7 тыс. ж., каля 1100 двароў. У час *Налівайкі паўстання 1595—96* заняты казакамі (6—27.11.1595). У 1630—40 Б.Радзівіл ператварыў С. у горад-крэпасць. У горадзе было некалькі правасл. цэркваў і манастыроў, *Слуцкі лютэранскі збор*, кальвінскі збор. Пры княжацкім двары вёўся *Слуцкі летапіс*, была бібліятэка, на падставе кніг і летапісу якой напісаў сваю «Хроніку» М.*Стрыйкоўскі*. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* у жн. 1648 горад вытрымаў аблогу атрада палк. І.Сакалоўскага. 27.8.1652 С. зноў дадзена магдэбургскае права, герб «Пагоньчык». Аднак ва ўмовах вайны з Расіяй нормы гэтага права ўведзены часткова, канчаткова ўсталяваны 9.9.1700. Герб «Пагоньчык» узноўлены мяшчанамі і магнатам у 18 ст. У пач. 17 ст. працавала школа пры Праабражэнскім правасл. брацтве, з 1617 — кальвінісцкая школа, з 1624 — *Слуцкая гімназія*, школы для гараджан, з 1707 *Слуцкі езуіцкі калегіум* і інш. З 1672 дзейнічала *Слуцкая друкарня*. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 адбылася *Слуцкая абарона 1655*. Б.Хмяльніц-



**Слуцк**. Царква Нараджэння Багародзіцы. 1-я пал. 18 ст. Фота пач. 20 ст.

СЛУЦК паводле плана 1799 г.






План **Слуцка**. Канец 18 ст.

кі 7.5.1656 выдаў універсал, паводле якога С. гарантавана недатыкальнасць з боку казацкіх атрадаў, слуцкім купцам — вольны гандаль на Украіне. У 1683 у С. каля 9 тыс. ж., працавала 16 рамесных цэхаў, 4 аб'яднанні (без правоў цэха), рамеснікі складалі больш за палову жыхароў, у 1777 дзейнічалі 18 цэхаў (гарбарны, кравецкі, шавецкі, кавальскі, ткацкі, слясарны, рымарскі, кушнерскі, ганчарны, панчошны, півварны, сталярны і інш.), паперня, існавала купецкая карпарацыя. У 1730—40-х г. узніклі суконная, палатняная мануфактуры, *Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў*. У час *Паўночнай вайны 1700—21* заняты ў 1705—06 рас., у 1706 і 1708 шведскімі, у 1711 — зноў рас. войскамі. У 1715—36 дзейнічаў тэатр пры езуіцкім калегіуме, з 1751 *Слуцкі тэатр Радзівіла*. У горадзе ў 1767 арганізавана *Слуцкая канфедэрацыя*. З 1785 у С. рэзідэнцыя епіскапа Віктара Садкоўскага. У 1785 адчынена правасл. духоўная семінарыя. Да канца 18 ст. горад паступова страчваў эканам. значэнне, колькасць насельніцтва скарацілася да 5,5 тыс. чал. З 1791 цэнтр *Случарэцкага павета* Навагародскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: B a l i ń s k i M. Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana. T. 3. Warszawa, 1846; J e l s k i A. Słuck // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1889. T. 10; Г л е б о в И. Город Слуцк: (Ист. очерк) // Виленский календарь на 1905 г. Вильна, 1905; Г р и ц к е в и ч А.П. Слуцк: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1970; Я г о ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Я г о ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979; Я г о ж. Древний город на Случи. Мн., 1985; Я г о ж. Яшчэ раз да пытання аб старадаўнім гарадскім гербе Слуцка // Бел. гіст. часопіс. 1996. № 2; K a ł a m a j s k a - S a e e d M. Portrety i zabytki książąt Olelkowiczów w Słucku: Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. Warszawa, 1996; Ц і т к о ў с к і І.А. Помнікі архітэктуры Слуцка. Слуцк, 1997.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Слуцка абарона 1655**. Ажыццяўлялася гарнізонам і мяшчанамі *Слуцка* ад рас. войск у ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1630—50-я г. Слуцк быў ператвораны ў магутную крэпасць. Уладальнік горада Б.*Радзівіл* утрымліваў тут гарнізон з наёмных жаўнераў, артылерыстаў, мясцовай шляхты і выбранецкай пяхоты (гл. *Выбранцы*), якія ўваходзіў у склад войска ВКЛ. Мяшчане Слуцка таксама былі мабілізаваны на абарону горада, з іх былі сфарміраваны 4 палкі, якія абаранялі адпаведныя ўчасткі гар. крэпасці. 20-тысячнае рас. войска кн. А.М.Трубяцкога 2.9.1655 падышло да Слуцка, сам князь асталяваўся ў Трайчанскім манастыры. Царскі ваявода прапанаваў ваеннаму губернатару горада палкоўніку В.Патэрсону капітуляваць, на што з крэпасці адказалі гарматнымі стрэламі. У ноч на 3 вер. Трубяцкой спрабаваў штурмаваць горад. Ратнікі рынуліся на штурм з крыкам «Цароў горад!», але былі адбіты. Абаронцы страцілі 1 чалавека. 6.9.1655 войска Трубяцкога, спаліўшы прадмесці, адышло на З. У вер. 1655 яно захапіла і спаліла Клецк. Мыш, Ляхавічы, Сталавічы, Мір і інш. На зваротным шляху войска Трубяцкога разам з казакамі І.Залатарэнкі 27.9. 1655 зноў падышло да Слуцка. Трубяцкой горад не штурмаваў, а спрабаваў угаварыць гарнізон капітуляваць: да афіцэраў-немцаў пісалі нямецкія афіцэры, якія служылі ў царскім войску, да слуцкіх мяшчан — казацкія атаманы, а да губернатара прыслалі царскую гра-

мату з абяцаннем розных ільгот пасля капітуляцыі. Губернатар паслаў Трубяцкому вязня з лістом, што «Слуцк крывёю, а не лістамі здабываць трэба». Тады войска Трубяцкога 29.9.1655 пачало адступаць па дарозе на Казловічы і Любань. Наўздагон былі пасланы некалькі конных харугваў, якія ўзначаліў губернатар. 30.9.1655 ар'ергард рас. войска адступіў з Кляпчанаў, запаліўшы гэтую прыгарадную вёску. Слуцк — адзіны буйны горад Беларусі, які ў час вайны 1654—67 не быў узяты ні рас., ні казацкімі войскамі.

*Кр.*: Акты Московского государства. СПб., 1894. Т. 2. С. 428—438; Iwanowski M. Materjały historyczne // Athenaeum. 1850. [Т.] 3; Biergiel J. Przyczynki do dziejów Słucka (1654—1660) // Przegląd bibliograficzny i archeologiczny. 1881. T. 2. *Літ.*: Грицкевич А. Слуцк: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1970; Яго ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Яго ж. Древний город на Случи. Мн., 1985; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Слуцкае Евангелле**, беларускі рукапісны помнік канца 16 ст. Напісана ў 1582 у *Слуцку*, відаць, кн. Юрыем Алелькавічам (гл. ў арт. *Алелькавічы*). Да 1917 захоўвалася ў *Слуцкім Троіцкім манастыры*. Да канца 1920-х г. у фондах Мінскага дзярж. музея, з 1929 у Магілёўскім дзярж. музеі, адкуль знікла ў пач. Вял. Айч. вайны. У 2002 перададзена ў Бел. экзархат. Напісана царк.-слав. мовай уставам на 259 аркушах у 2 калонкі па 20 радкоў на чарпанай паперы. Мае каляровыя застаўкі. Пераплёт 19 ст. з кардону ў чырвоным аксаміце. На 1-м аркушы — запіс спавядальніка князя пратапопа Малафея.

*Літ.*: Серно-Соловьевич Ф.Ф. Древнерусский город Слуцк и его святыни. Вильна, 1896. С. 35; Снитко А.К. Описание рукописей и старопечатных книг в Слуцком (Минской губ.) Тройчанском монастыре // Изв. Отделения русского языка и словесности. 1911. Т. 16, кн. 1; Запісы БІНІМ. 1974. Кн. 12. С. 103; Kałamajska-Saeed M. Portrety i zabytki książąt Olelkowiczów w Słucku: Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. Warszawa, 1996. S. 37.

**Слуцкае княства**, буйное феадальнае ўладанне ў ВКЛ. Узнікла ў 1395, калі вял. кн. Вітаўт адабраў у кн. *Уладзіміра Альгердавіча* Кіеўскае княства і даў яму як кампенсацыю Слуцк і Капыль з навакольнымі землямі ў якасці ўдзельнага княства. Да сярэдзіны 15 ст. цэнтрам княства быў *Капыль* (гл. *Капыльскае княства*), пасля *Слуцк*. Нашчадкі Уладзіміра Альгердавіча, князі *Алелькавічы* (Слуцкія) валодалі С.к. да 1612. У 1582 тры сыны Ю.Ю.Алелькавіча падзялілі паміж сабой Слуцк і С.к. на 3 часткі (са сваёй адміністрацыяй у кожнай). Слуцкімі князямі ў гэты час былі Юрый Юр'евіч (1578—86), Ян Сімяон (1578—92) і Аляксандр (1578—91); два апошнія нашчадкаў не мелі. Частку Юрыя Юр'евіча атрымала яго дачка Соф'я (1586—1612, гл. *Радзівіл С.*). Пасля смерці Аляксандра яго частку атрымаў брат Ян Сімяон, пасля смерці якога ўсё княства зноў было аб'яднана як уладанне Соф'і. Пасля яе смерці ў 1612 С.к. перайшло да яе мужа Я.*Радзівіла* і заставалася ў родзе Радзівілаў, з перапынкам у 1695—1744, калі знаходзілася ў жаночых нашчадкаў Радзівілаў слуцка-біржанскай лініі (гл. ў арт. *«Нойбургскія маёнткі»*). У 1744 С.к. вярнулася да Радзівілаў нясвіжскай лініі.

С.к. займала тэрыторыю да р. Нёман на Пн, р. Лань на З, р. Пціч на У і р. Прыпяць на Пд; уключала гарады і мястэчкі Слуцк, Капыль, Цімкавічы, Грэск, Таль, Пагост, Любань, у 16 ст. — і Петрыкаў. Да 16 ст. яно знаходзілася ў васальнай залежнасці ад вялікакняжацкай улады. Кіраваў С.к. князь з дапамогай баярскай рады. У слуцкага князя былі свае васалы — князі, баяры і путныя слугі, якія атрымлівалі за службу (вайсковую і адміністрацыйную) невял. маёнткі. У валасцях кіравалі намеснікі князя. У 16 ст. С.к. паступова ператварылася ў вял. феад. вотчыну, але захавала рысы ўдзельнага княства. Да канца 18 ст. заставалася унікальнай адм.-тэр. адзінкай ВКЛ. З 1507 уваходзіла ў Навагародскі пав. і адначасова захоўвала ў адм., судовай і вайсковай структурах свае асобныя ўстановы, якія падпарадкоўваліся слуцкаму князю. У 1791 С.к. скасавана, яго тэрыторыя ўвайшла ў склад *Случарэцкага павета*.

*Літ.*: Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 4. 2 wyd. Warszawa, 1886; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 316—321; Грицкевич А. Слуцк: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1970; Яго ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Яго ж. Древний город на Случи. Мн., 1985.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Слуцкая балетная школа**. Існавала ў 1756—60 пры *Слуцкім тэатры Радзівіла*. Створана кн. Г.Ф.*Радзівілам* для падрыхтоўкі артыстаў балетнай трупы тэатра. Кіраўнікі А.Пуціні і Л.М.Дзюпрэ (да 1759). У школе навучалі 8—10-гадовых дзяцей слуцкіх мяшчан. Сярод навучэнцаў Ражавіч, К. Міхневіч, Дыклер, Жукоўскі, А.Лойка, якія потым сталі вядучымі артыстамі радзівілаўскіх тэатраў, а таксама дзеці негрыцянскіх нявольнікаў князя. У «Рэгістры прыгонных дзяцей, што былі ў навучанні ў А.Пуціні» ўпамінаюцца Тэадор, Гназар, Келер, Кулікоўскі, Шымон, Мацей Бургет, Пятрусь, Гурская Бабка, Зоф'я, Марыся, Лудавіка, Катарына, Ганулья, Аляксандра, Катарына Воўкавіч, Марыся Гераскевіч, Разалія Мікалаёва, сёстры Фрызіна і Тарэса Барасневіч, Тэадора Грыгаровіч. Вучыліся дзеці ва ўмовах жорсткай муштры. Іх прымушалі танцаваць па 6 гадзін у дзень, жорстка каралі за нязначныя правіннасці (наглядчыкам дазвалялася ўжываць розгі), кармілі дрэнна, трымалі ў зачыненых дартуарах. У пач. 1758 пастаўлены першы балет «На тры пары», у якім выявіліся высокія здольнасці выхаванцаў школы, адзначаныя сучаснікамі і самім Пуціні. Дакладна рэпертуар слуцкага балета невядомы, але пералік матэрыялаў на яго патрэбы дае падставы меркаваць, што пастаўлены «Балет з Арлекінам», «Венгерскі балет», «Турэцкі балет», а таксама балеты, у якія ўваходзілі нямецкія, швейцарскія і цірольскія танцы («стралкоў», «садоўнікаў», «чарцей», «трубачыстаў», «кветачніц», «сялянак»). Пасля смерці Радзівіла школа на чале з Пуціні пераведзена ў Нясвіж (май 1760).

*Літ.*: Барышаў Г.І. Тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку // Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1.

**Слуцкая гімназія**, сярэдняя навучальная ўстанова ў *Слуцку* ў 1617—1918. Заснавана 20.5.1617 кн. Я.*Радзівілам* пры кальвінскім зборы. Падпарадкоўвалася суперінтэнданту



евангелічных цэркваў Навагародскага пав. У 17 — сярэдзіне 18 ст. праграма нагадвала курс езуіцкіх калегіумаў, навучальны курс складаўся з 4 класаў з 2-гадовым тэрмінам кожны. Навучанне вялося на польск. мове (малодшыя класы) і на латыні (старэйшыя класы). Выкладаліся лацінская, стараж.-яўрэйская, стараж.-грэчаская, нямецкая і польск. мовы, асновы логікі, рыторыкі, права, гісторыя, матэматыка, фізіка, музыка, гімнастыка, фехтаванне, спевы. Практыкаваліся дыспуты, ставіліся тэатральныя пастаноўкі. Гімназія мела трывалыя сувязі з ун-тамі Гайдэльберга, Караляўца, Берліна, Франкфурта-на-Одэры, Марбурга, Лейдэна, Эдынбурга і Оксфарда (туды пасылалі на вучобу лепшых выпускнікоў). Згодна са статутамі 1628 і 1679 у гімназію прымаліся дзеці ўсіх саслоўяў і веравызнанняў (практычна пераважалі сыны пратэстанцкай шляхты). У выніку войнаў і палітыкі контррэфармацыі ў 2-й пал. 17 ст. гімназія прыйшла ў заняпад. У 1775 яна рэарганізавана ў адпаведнасці з патрабаваннямі Адукацыйнай камісіі, з 1778 — публічнае евангелічнае вучылішча.

*Літ.*: Глебов И. Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617—1630—1901 гг. Вильна, 1903; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968; Родченко Г.В. Старейшая школа Белоруссии // Педагогика и психология. Вып. 9. Вопросы истории и педагогики в БССР. Мн., 1976; Kosman M. Litewska jednota ewangelicko-reformowana od połowy XVII w. do 1939 r. Opole, 1986.

***Сяргей Казуля, Андрэй Самусік.***

**Слуцкая друкарня.** Існавала ў *Слуцку* ў 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. Першая спроба стварыць яе зроблена ў 1665. У 1672 з Мітавы, сталіцы Курляндскага і Земгальскага герцагства, у Слуцк пераведзена друкарня, якая належала Радзівілам слуцка-біржанскай лініі, што былі кальвіністамі па веравызнанні. У 1693 княгіня Л.К.*Радзівіл* перадала С.д. сіноду кальвіністскай царквы ВКЛ. Сінод, ратуючы С.д. ад небяспекі ў час Паўн. вайны 1700—21, перавёў яе ў Каралявец. У С.д. друкаваліся кнігі рэліг. характару (пераважна кальвіністскія, былі і каталіцкія), выданні на вайсковыя і геаграфічныя тэмы, мастацкія творы, гравюры, календары, падручнікі, даведнікі па вядзенні сельскай гаспадаркі, мемуары і інш., у т.л. пераклады з французскай і нямецкай моў. За перыяд 1673—87 выдадзены 23 кнігі тыражом 24 200 экз. Усяго вядома 29 назваў кніг С.д. (на польск. мове). У 1678 выйшла кніга «Манархія Турэцкая» П.Рыко, якую з французскай мовы пераклаў слуцкі губернатар К.*Клакоцкі*. У кнізе змешчана 18 гравюр вядомага бел. графіка М.*Вашчанкі*. Выдадзены кнігі «Абшарнік, або Гаспадар інфлянцкі» І.Германа (1673), «Неабходныя заўвагі пра ваенны парадак» А.М.Фрэдры (1675), «Руская тэорыя» — вучэбны дапаможнік па бел. мове. Тыражы кніг ваганіся ад 82—100 да 3389 экз., цэны — ад 2 грошаў да 4 злотых. Княжацкі двор меў свайго кніжнага гандляра Цэрнера, які перадаваў атрыманыя грошы ў княжацкі скарб. Некаторыя кнігі выдадзены як падарунак ад уладальніцы горада розным асобам, частку кніг прадавалі кляштарам.

*Літ.*: Грицкевич А. Слуцк: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1970; Его ж. Книжное дело в феодальном Слуцке в XVI—XVIII в. // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Мн., 1983. Вып. 4; Его ж. Древний город на Случи. Мн., 1985; Пятровіч Н. Слуцкая друкарня і яе друкі // Гісторыя выдавецкай дзейнасці ў Польшчы і Беларусі ў XVI—XX стагоддзях. Мн., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Слуцкая духоўная семінарыя**, праваслаўная навучальная ўстанова ў *Слуцку* ў 2-й пал. 18 ст. У 1764 заснавана ніжэйшая духоўная школа з дадатковымі курсамі лацінскай і польск. моў пры Слуцкім Праабражэнскім манастыры архімандрытамі гэтага манастыра П.Валчанскім і Троіцкага манастыра Д.Галяхоўскім. Спачатку называлася калегіумам, рыхтавала юнакоў да прыняцця духоўнага звання. Хутка пераведзена ў Троіцкі манастыр. У пач. 1770-х г. прыйшла ў заняпад з-за адсутнасці сродкаў. Рэарганізавана ў семінарыю пры пераяслаўскім і барыспальскім епіскапе, архімандрыце Троіцкага манастыра *Віктару* Садкоўскім паводле ўказа Кацярыны II ад 15.5.1785. Атрымлівала дапамогу з рас. казны ў памеры 2 тыс. рублёў штогод. Выкладчыкі запрошаны з Кіева-Магілянскай акадэміі. Мела спачатку 2 класы і 25 выхаванцаў, у 1788 адчынены яшчэ 2 класы. Падручнікі прыслала рас. Камісія народных вучылішчаў. Садкоўскі спрабаваў пераўтварыць Слуцк у цэнтр правасл. асветы ў Рэчы Паспалітай са шматлікімі пачатковымі школамі-філіямі. Але гэтыя захады сустрэлі моцную апазіцыю з боку мясцовых святароў, і была заснавана толькі 1 школа ў Альшанцы (Чачэльніцкая пратапопія). Пасля арышту Садкоўскага семінарыя і школа ў Альшанцы ў ліп. 1790 зачынены. Адноўлена ў 1793, у 1840—1917 дзейнічала ў Мінску.

***Андрэй Самусік.***

**Слуцкая канфедэрацыя**, саюз пратэстанцкай (кальвіністскай і лютэранскай) і праваслаўнай шляхты ВКЛ, арганізаваны ў 1767 для ўраўнавання яе ў палітычных правах з каталіцкай шляхтай. Адначасова ў Польшчы з такой жа мэтай створана Тарунская канфедэрацыя пратэстанцкай шляхты. Фактычна яны былі арганізаваны рас. імператрыцай Кацярынай II для ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Для іх арганізацыі былі выкарыстаны грошы, атрыманыя ад рас. пасла ў Варшаве, а дакументы С.к. папярэдне ўзгоднены з Кацярынай II. Паводле *«Вечнага міру» 1686* Расія і яе саюзніца Прусія ў 1764 падалі Рэчы Паспалітай праект ураўнавання некатолікаў (дысідэнтаў) з католікамі ў паліт. правах. Сойм адхіліў гэта патрабаванне, і рас. войскі ў канцы лютага 1767 увайшлі на тэр. Беларусі. Рас. пасол М.В.Рапнін вызначыў гарады, дзе меркавалася арганізаваць дысідэнцкія канфедэрацыі — Слуцк і Торунь. У Слуцку ўжо знаходзіліся рас. войскі на чале з палкоўнікам Палонскім. 17.3. 1767 туды пачалі з'язджацца канфедэраты (усяго 250 шляхціцаў). 20.3. 1767 у Спаскай царкве пад старшынствам магілёўскага епіскапа Георгія Каніскага праведзены выбары маршалка С.к., генерал-маёра войска ВКЛ Я.Грабоўскага (кальвініст). На чале С.к. стала ўплывовая група кальвіністаў (22 чал.) і лютэран. Былі абраны 33 радцы (амаль усе пратэстанты), у т.л. Каніскі. Акт С.к. падпісалі 248 чал., у іх ліку Каніскі і генерал-лейтэнант войска ВКЛ Т.Грабоўскі (адзін з лідэраў кальвіністаў). С.к. звярнулася з просьбай пра заступніцтва да Кацярыны II і каралёў Швецыі, Англіі, Прусіі, Даніі, курляндскага герцага. Праваслаўныя ў С.к. былі прадстаўлены маламаёмнай



Да арт. **Слуцкая канфедэрацыя**. Медаль, выбіты ў гонар прызнання соймам 1768 правоў праваслаўных і пратэстантаў. Медальер І.Л.Экслейн. 1768.

шляхтай Пінскага пав. і Слуцкага княства і вядучай ролі не адыгрывалі. У акце С.к. было змешчана патрабаванне ўраўнаваць у паліт. правах дысідэнцкую шляхту з каталіцкай. У час пасяджэнняў С.к. ніякай увагі на становішча правасл. мяшчан не звярталася. У акце С.к. пра мяшчан і сялян нічога не гаварылася. Адразу пасля стварэння С.к. Кацярына II узяла яе пад сваю «імператарскую пратэкцыю». Канфедэраты разам з часцямі рас. арміі рушылі на Менск, Вільню і Варшаву. Калі ў кастр. 1767 адкрыўся надзвычайны сойм, Рапнін арыштаваў праціўнікаў Слуцкай і Тарунскай канфедэрацый. 24.2.1768 Расія і Рэч Паспалітая заключылі «вечны трактат», які ўвайшоў у пастановы сойма, і «асобны акт» — дадатак да трактата, у якім былі выкладзены *Кардынальныя правы*. Сойм абвясціў, а Кацярына II і каралі Прусіі, Даніі, Англіі і Швецыі гарантавалі правасл. і пратэстанцкай шляхце роўныя правы з каталіцкай шляхтай. У трактаце было запісана палажэнне, што правасл. мяшчане маюць аднолькавыя правы з католікамі быць у складзе магістратаў, гандляваць, засноўваць прадпрыемствы. Абвешчана, што сяляне-праваслаўныя ў каралеўскіх маёнтках і староствах маюць такія правы, як і сяляне-католікі. Але каталіцтва заставалася пануючай рэлігіяй Рэчы Паспалітай, каралём дзяржавы мог быць толькі католік.

*Літ.*: Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Вильна, 1875. Т. 8. С. 608—631; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 399; Грыцкевіч А.П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 6; Яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979. С. 134—137.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Слуцкая капэла Радзівіла**, прыдворны аркестр кн. Г.Ф.*Радзівіла* ў Слуцку ў 1746—60. Іграла на балях, маскарадах, сямейных святах, паляваннях, з 1751 суправаджала паказы *Слуцкага тэатра Радзівіла*. Складалася ў асноўным з замежных музыкантаў. Капельмайстры А.Ваплер, Ф.Вітман, Т.Гартвіг, выканаўцы Т. Путс (басіст), Ю.Кагут (лютніст), Наверт і Гогенбрукнер (арфісты), Ф.Шперлінг і Ліст (трубачы), Горак (валтарніст), Паўтснер (арганіст), Гартвіг, Я.Мартэнс і інш. Капэла выступала ў рэзідэнцыях уладара ў Слуцку і Белай і за іх межамі. Сучаснікі адзначалі высокі прафесійны ўзровень капэлы. Пасля смерці Радзівіла капельмайстры і некаторыя музыканты пераведзены ў Нясвіж, дзе працавалі ў *Нясвіжскай музычнай школе* і *Нясвіжскай капэле Радзівілаў*.

***Вольга Дадзіёмава.***

**Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў**, Слуцкая персіярня, прадпрыемства ў *Слуцку* па вырабе *слуцкіх паясоў*. Заснавана ў пачатку 1760-х г. уладальнікам горада М.К.*Радзівілам* Рыбанькай шляхам пераводу сюды Нясвіжскай мануфактуры шаўковых паясоў. Выпускала кунтушовыя паясы, шаўковыя пакрывалы і махры, залатыя і сярэбраныя галуны, павязкі, стужкі, дываны, тканіны для літургічнага ўжытку. Вытворчасцю кіраваў майстар з г. Станіслаў (Украіна) Я.Маджарскі (гл. *Маджарскія*), які ў 1776—77 быў і арандатарам мануфактуры. У 1777—1807 мануфактуру арандаваў яго сын Л.Маджарскі. У 1763 на станках працавалі 6 чаляднікаў і 34 вучні («хлопцы»), было таксама 6 дзяўчат «для навіўкі шоўку». У канцы 18 ст. мануфактура мела 24 ткацкія станкі, каля 55 работнікаў, вырабляла да 200 паясоў штогод коштам па 50—100 руб. Станкі падзяляліся на «персідскія», «стамбульскія» і «кітайскія» паводле відаў выпускаемай прадукцыі (паясы, «кітайская матэрыя» і г.д.). У 19 ст. з-за змены моды адбылося зніжэнне вытворчасці. Пасля 1846 звесткі пра С.м.ш.п. адсутнічаюць.

*Літ.*: Карпачоў Я.М. Узнікненне і развіццё Слуцкай вотчыннай мануфактуры шаўковых паясоў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 3.

**Слуцкі езуіцкі калегіум**, сярэдняя навучальная ўстанова ў *Слуцку* ў 1715—73. У 1689—1704 у Слуцку існавала езуіцкая місія, у 1704—15 рэзідэнцыя, якая стала асновай калегіума. У 1692 віцебскі падчашы Ян Слонскі з жонкай Кацярынай адпісалі езуітам двор у Слуцку і 2 вёскі, у 1696 Мар'яна (2-я жонка Слонскага) — 10 тыс. злотых. Першыя драўляныя будынкі місіі і рэзідэнцыі месціліся ў гар. раёне Падвалле. У 1715 у раёне Зарэчча пабудаваны драўляны корпус калегіума і касцёл Св. Тройцы — 8-баковы ў плане храм з гал. купалам у цэнтры і 4 вежамі па вуглах; стары корпус рэзідэнцыі ў Падваллі перароблены ў канвікт (інтэрнат). У 1698 тут адчынена школа граматыкі, у 1702 — паэтыкі, у 1704 — рыторыкі. З ператварэннем рэзідэнцыі ў калегіум навучальная праграма стала адпавядаць праграме сярэдніх навучальных устаноў. Пры калегіуме існавалі музычная бурса (з 1713) і аптэка (з 1762). У б-цы меліся каштоўныя старадрукі і рукапісы, у т.л. Статут ВКЛ 16 ст., Мазавецкі статут 1541, аўтографы П.Скаргі; пасля скасавання калегіума з яго збораў у б-ку Віленскай акадэміі было перададзена 2200 тамоў. У розныя часы калегіуму належалі навакольныя маёнткі Багурын, Багурынак, Бокшыцы, Барачыцы, Кіявічы, Новы Двор, Румок, Уса, Ямінск; місіянерскія пункты існавалі ў Багурыне, Румцы, Ямінску. У 1773 калегіум скасаваны. У 1804 касцёл і ўсе пабудовы калегіума знішчаны пажарам.

*Літ.*: Габрусь Т.В. Цуд з дрэва // Страчаная спадчына. Мн., 1998; Paszenda J. Kościół jezuitów w Słucku // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 1999. T. 1.

**Слуцкі Ільінскі манастыр**, праваслаўны манастыр у *Слуцку* ў 16—19 ст. Знаходзіўся ў Старым горадзе на вул. Віленскай перад Віленскай брамай. Упершыню згадваецца ў 1515. Царк. гісторыкі лічаць, што да 1611 манастыр быў мужчынскім, потым пераўтвораны ў жаночы. У 19 ст. манастырскі комплекс уключаў халодную саборную царкву Уваходу Ісуса Хрыста ў Іерусалім, цёплую царкву св. Іаана Златавуста, званіцу над гал. уязной брамай, дамок для ігуменні, манастырскі корпус з 13 келлямі, гаспадарчыя пабудовы. Усе будынкі былі драўляныя. Паводле рашэння Сінода ў 1854 манастыр закрыты, а яго маёмасць перада-

дзена Пінскаму Варварынскаму манастыру. У 1856 будынак цёплай царквы перанесены на Замкавую гару ў Слуцку, а саборная царква ў 1861 перавезена ў в. Заўшыцы Слуцкага пав. (абедзве не захаваліся). Дамок ігуменні і манастырскі жылы корпус былі перададзены гар. сабору.

*Літ.*: История российской иерархии. Ч. 4. М., 1812; Описание монастырей, в Российской империи находящихся... 4 изд. М., 1817; Описание церквей и приходов Минской епархии. Мн., 1879.

*Наталля Пятровіч.*

**Слуцкі летапіс**, Увараўскі летапіс, помнік беларуска-літоўскага летапісання 16 ст., адзіны спіс 3-й, скарочанай рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*. Збярогся ў рукапісе 1-й чвэрці 16 ст. Як сведчаць запісы на палях, што датычаць князёў слуцкіх, бытаваў і, напэўна, узнік у Слуцку (адсюль назва). У адрозненне ад 2-й рэдакцыі Бел.-літ. летапісу 1446 (гл. *Нікіфараўскі летапіс, Супрасльскі летапіс, Акадэмічны летапіс*), у якой спачатку змешчана летапісная кампіляцыя з рус. летапісаў, а ў канцы — мясцовыя гіст.-літ. творы, С.л. пачынаецца *«Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх»*, завяршаецца агульнарус. летапісам. Апошні дадаткова скарочаны і змяшчае выбарчыя гіст. запісы пра падзеі 970—1240 (абрываецца на апісанні паходу Батыя на Кіеў і Галіцка-Валынскую Русь). Іншы парадак размяшчэння ў гэтым спісе *«Пахвалы Вітаўту»* і *Смаленскай хронікі*. Рукапіс дэфектны, без пачатку і канца, не хапае лістоў у сярэдзіне. Да 1917 зберагаўся ў б-цы графа А.С.Уварава ў Маскве, цяпер — у Дзярж. гіст. музеі ў Маскве. Асн. арыгінальная частка С.л. ўпершыню апублікавана ў 1854 А.М.Паповым, у 1877 выдадзены ў Кёнігсбергу ў перакладзе на нямецкую мову. Поўнасцю змешчаны ў 17-м і 35-м тамах «Поўнага збору рускіх летапісаў».

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Слуцкі лютэранскі збор** («аўгсбургскі», «саскі»). Існаваў у *Слуцку* ў 17—19 ст. Паводле некаторых крыніц, у 1535 кн. Ю.Алелькавіч прызначыў пляц зямлі для лютэранскага збору, аднак звестак пра яго пабудову ў 16 ст. няма. У 1651 кн. Б.Радзівіл заснаваў сталы збор для лютэранскай грамады ў Слуцку, у 1653 выдаў фундуш на жылыя памяшканні для пастара і настаўнікаў, на школу, шпіталь і пахавальны дом, прызначыў гадавое ўтрыманне ў 300 злотых пастару, вызваліў гаспадарку збору ад падатковых абавязкаў. У 1670 Х.Вінклер падараваў збору аптэку. З ліку першых лютэранскіх пастараў у Слуцку вядомы Павел Радаш (1671—74 і 1678—98) і Давід *Пезаровіус* (1674—78). У 18 ст. лютэранская грамада валодала будынкам збору, домам пастара, якія падтрымліваліся рэнтай ад здачы некаторых аб'ектаў нерухомасці; будынкі былі драўляныя. Слуцк заставаўся важным цэнтрам лютэранства ВКЛ у 18 ст. Да канца 18 ст. слуцкі лютэранскі пастар абслугоўваў лютэран у Менску і інш. мясцовасцях цэнтр. Беларусі. Пастановай сінода ў Біржах 1784 Слуцк стаў цэнтрам адной з 3 адм. акруг лютэранскай царквы ў ВКЛ. У 19 ст. збор прыйшоў у заняпад, слуцкая лютэранская грамада стала філіялам мінскай лютэранскай парафіі.

*Мікалай Пачкаеў.*

**Слуцкі Троіцкі манастыр**, Трайчанскі манастыр, праваслаўны мужчынскі манастыр у *Слуцку* ў 15—1-й пал. 20 ст. Размяшчаўся на правым беразе р. Случ у прадмесці Трайчаны. Час узнікнення невядомы, упершыню згадваецца ў 1455. У гіст. л-ры прынята лічыць, што гал. храм манастыра — царква Св. Тройцы пабудавана ў 1505, але дакументальнага пацвярджэння гэтаму не выяўлена. Дакладна вядома, што ў 1654 яна была мураваная, узвышалася ў цэнтры манастырскага двара, усе астатнія пабудовы былі драўляныя. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* манастыр моцна пацярпеў, а царква практычна знішчана. Тагачасны ўладальнік Слуцка кн. Б.*Радзівіл* у 1667 даў архімандрыту Феадосію Васілевічу на адбудову «спустошанага і зруйнаванага непрыяцелем» манастыра неабходную драўніну «з мясцовых пушчаў», а жыхары Слуцка (пераважна купцы і шляхта) у 1668—69 рабілі ўзносы на мураванне царквы. У 18 ст. храм зноў разбураны. У 1785—88 царква адбудавана па праекце і пад кіраўніцтвам архітэктара «Шаі Вольфавіча Турава, мешчаніна слуцкага» па заказу тагачаснага слуцкага архімандрыта Віктара Садкоўскага. Храм збудаваны ў стылі барока, крыжова-купальны ў плане, з дзвюма 3-яруснымі чацверыковымі вежамі-званіцамі на гал. фасадзе; на паўн. вежы быў уманціраваны гадзіннік. Сцены тарцоў трансепта завяршаліся фігурнымі франтонамі. Перад гал. уваходам да сцяны быў прыбудаваны прытвор пад 2-схільным дахам. Над сяродкрыжжам на чацверыку ўзвышаўся вял. купал з вежавым завяршэннем. У храме зберагаліся стараж. каштоўнасці: цудатворны абраз Маці Божай візантыйскага пісьма, абраз Казанскай Маці Божай таксама візантыйскага пісьма, *Слуцкае Евангелле* 1582, пісанае слуцкім кн. Ю.Ю.Алелькавічам, стараж. партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў — заснавальніка роду Аляксандра і 3 яго сыноў — Юрыя, Сямёна і Аляксандра, вырабы з серабра і інш. Пры манастыры была школа граматы і рамёстваў. У 1785—1840 на тэр. манастыра размяшчалася духоўная семінарыя. Дакладны час закрыцця С.Т.м. невядомы, усе будынкі разам з гал. храмам разбураны на працягу 1-й пал. 20 ст.



**Слуцкі Троіцкі манастыр**. Малюнак Н.Орды. 1864—76.

*Літ.*: Минская старина. Вып. 2. Мн., 1911; Русские монастыри. М., 1995.

***Наталля Пятровіч.***

**Слуцкі тэатр Радзівіла**. Існаваў у *Слуцку* ў 1751—60. Належаў Г.Ф.*Радзівілу*. Ставіліся оперы (на італьянскай і нямецкай мовах) і балеты. Балетная трупа падрыхтавана з прыгонных у *Слуцкай балетнай школе*. Суправаджала спектаклі капэла музыкантаў высокай кваліфікацыі (у асноўным немцы, чэхі, аўстрыйцы). У драматычных спектаклях прымалі ўдзел таксама кадэты (такі спектакль адбыўся 2.4.1752), музыканты, педагогі кадэцкага корпуса (вядома, што ў 1752 капельмайстар Ф.Вітман выступіў у ролі «багацея», а 13.6.1753 «шпрахмістар» Вебер — у ролі Візіра; сярод прафесійных акцёраў, што ігралі ролі герояў, упамінаюцца Мараўскі і Ажэльскі). Пастаноўкі «нямецкіх» камедый былі рэгулярнай з'явай. У масавых сцэнах удзельнічалі салдаты гарнізона: у парадной форме, са зброяй яны служылі і «ўпрыгожаннем» залы (іх ставілі на выцяжку каля ложаў у час спектакляў). У тэатры лунаў дух прускай казармы. Спецыяльна для гэтага театра на нямецкай мове былі напісаны драмы, разлічаныя на тэатральныя карціны з выхадам на сцэну салдат: узяцце штурмам крэпасцей, фехтаванне, баталіі, сцэны пакарання смерцю і інш. Наладжваліся паказы тэатра ценяў і марыянетак, якія спалучаліся з паказамі камедыі дэль артэ і «турэцкіх камедый».

Драўляны будынак тэатра (паводле інвентару 1765), накрыты гонтавым дахам, знаходзіўся на тэр. Старога горада. На гал. фасадзе меў галерэю з размаляванай балюстрадай. Сцены глядзельнай залы былі аздоблены люстэркамі, лавы партэра, абапал якога размяшчаліся ложы, абцягнутыя чырвоным і блакітным сукном; столь была абабітая палатном і размалявана. Асвятлялі залу 9 шкляных люстраў. Ад партэра ў глыб сцэны (паралельна рампе) было замацавана (на рухомых рамах) 36 намаляваных на палатне кулісных перасоўных дэкарацый. У закуліснай частцы меліся 2 артыстычныя пакоі. Тэатр з боку вуліцы фланкіравалі 2 жылыя флігелі для акцёраў. Будынкі тэатра і флігеляў не зберагліся.

*Літ.*: Барышаў Г.І. Тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку // Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1.

**Слуцкія**, княжацкі род, гл. *Алелькавічы*.

**Слуцкія гарадскія ўмацаванні**, комплекс драўляна-земляных умацаванняў *Слуцка* ў 11—18 ст. Самыя раннія ўмацаванні адносяцца да часу заснавання горада, які ўзнік у 11 ст. на гарадзішчы ранняга жалезнага веку ў сутоках рэк Бычок і Случ. Уяўлялі сабой глініста-пясчаны вал вышынёй каля 6 м, шырынёй 20—22 м у аснове. Па версе насыпу ішоў вастракол вышынёй 4—6 м з дубовых бярвён таўшчынёй 14—16 см, верхні край якога быў завостраны на гранёны конус. Вал ахопліваў усю пляцоўку дзядзінца Слуцка. За валам каля падэшвы гарадзішча быў выкапаны роў глыбінёй 2 м, шырынёй 25 м, які запаўняўся вадой з р. Бычок. Відаць, у 12—13 ст. існавалі драўляна-земляныя ўмацаванні абапал вакольнага горада, што размяшчаўся па ПнУ ад дзядзінца (іх рэшткі зруйнаваны ў 1960-я г. ў час будаўніцтва). У 1409 на месцы дзядзінца і вакольнага горада ўзніклі Верхні і Ніжні замкі (гл. ў арт. *Слуцкія замкі*). Відаць, да 16 ст. Слуцк меў драўляна-земляныя ўмацаванні, знешні выгляд якіх сфарміраваўся яшчэ ў стараж.-рус. час і якія надзейна ахоўвалі яго ад нападаў крымскіх татараў у 1502, 1503, 1505, 1506 і ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1507—08. Паводле пісьмовых крыніц, у 1509 пачалося будаўніцтва ўмацаванняў вакол усяго гар. паселішча, што прымыкала да замкаў. Паводле Хронікі Быхаўца, у пач. 16 ст. гэтыя ўмацаванні ахоплівалі Стары горад з замкамі на правым беразе р. Случ і Новы горад (Зарэчча), які размясціўся на яе левым беразе. Як сведчыў маскоўскі дзяк Т.*Карабейнікаў* (канец 16 ст.), Слуцк меў драўляна-земляныя ўмацаванні і тым не менш быў «города Менска больши и лутчи». На рубяжы 16—17 ст., калі на бел. землях пачалі пашырацца земляныя ўмацаванні старагаландскага тыпу, Слуцк быў абведзены магутным валам і вадзяным ровам. Непрыступнасць С.г.у. выявілася ў час *Слуцка абароны 1655*. Увесь Слуцк, за выключэннем Астроўскага і Трайчанскага прадмесцяў, быў абнесены ўмацаваннямі. Абарончая лінія Старога горада мела выгляд магутнага землянога вала, які дугой апяразваў старую частку горада з У, Пн, З і ўпіраўся сваімі канцамі ў р. Случ. Тут было 12 бастыёнаў рознай канфігурацыі і памераў. Перад земляным валам знаходзіўся вадзяны роў. Трапіць у Слуцк можна было праз 3 брамы — Астроўскую, Ільінскую (пазней Віленскую) і Капыльскую. Вал дасягаў шырыні не менш як 27 м і вышыні каля 8 м. Капыльская і Ільінская брамы мелі аднолькавыя памеры ў аснове — 25,6 × 36,6 м, Астроўская — 9,15 × 15,25 м. Цераз вадзяны роў былі перакінуты пад'ёмныя масты. Кварталы Новага места абкружалі вал і роў, якія сваімі канцамі сыходзіліся да р. Случ. Тут меліся 7 бастыёнаў і ўязная драўляная брама — Навамеская. Агульная даўжыня С.г.у. у канцы 18 ст. дасягала амаль 3840 м. На працягу 18 ст. Слуцк заставаўся магутным умацаваннем. У 1780 рас. афіцэры, якія складалі тапаграфічнае апісанне горада, адзначалі непашкоджаны стан яго ўмацаванняў, у т.л. ўсіх 4 брам. Канчаткова рэшткі С.г.у. бастыённага тыпу знішчаны будаўнічымі работамі ў жн. 1986.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991; Калядзінскі Л.У. Умацаванні і ўзбраенне дзядзінца летапіснага Случаска (XII—XIII стст.) // Гіст.-археал. зб.: Памяці Міхася Ткачова. Мн., 1993. Ч. 1.

***Лявон Калядзінскі, Міхась Ткачоў.***

**слуцкія замкі**. Існавалі ў *Слуцку* ў 15—18 ст. Размяшчаліся ў абалоне р. Случ. Складаліся з Верхняга (Горнага), Ніжняга (Дольнага) і Новага (Цытадэлі) замкаў.

Верхні (Горны) замак займаў прыродную выспу авальнай формы памерам 80 × 100 м, якая ўзвышалася над поймай р. Случ на 5—7 м у сутоках яе з р. Бычок. У раннім жалезным веку тут існавала паселішча культуры штрыхаванай керамікі, у 11—14 ст. размяшчаўся дзядзінец Слуцка. Першыя звесткі пра Верхні замак адносяцца да 1409, калі ён згадваецца як умацаванне на сыпаным «капцы» з драўлянымі сценамі і вежамі. Па перыметры пляцоўкі быў насыпаны глініста-пясчаны вал шырынёй у аснове 22 м і вышынёй больш за 4 м. З боку поля вал апяразваўся ровам шырынёй 25 м і глыбінёй каля 2 м. Схілы замка былі ўмацаваны дубовымі завостранымі на конус палямі даўжынёй 4—6 м. Паводле інвентарных апісанняў Слуцка за 1627, 1728, 1791 і 1800, Верхні замак займаў плошчу каля 1,5 га. Цераз аба-

ронічы роў быў перакінуты пад'ёмны мост з парэнчамі, які вёў да ўваходнай замкавай брамы. Над ёй мелася высокая вежа з гадзіннікам. На вежы знаходзіўся пакрыты пазалотай медны шар з выявай арла на ім. Замкавая брама мела 4 ярусы бою. Яшчэ ў 1791 тут размяшчаліся 3 гарматы. На восі ўезду стаяў 1-павярховы палац з часаных брусоў на падмурку.

Ніжні (Дольны) замак размяшчаўся на ПнУ ад Верхняга замка (на месцы б. вакольнага горада) і быў аддзелены ад яго запоўненым вадой ровам. Гэты замак быў на 2—3 м ніжэйшы за Верхні і меў выгляд няправільнага чатырохвугольніка пл. 1,9 га. Ніжні замак ахоўваўся земляным валам і драўляным парканам. Паводле інвентару замка за 1687, тут стаялі 3 палацы, зрубленыя з часанага бруса на падмурку, вазоўня, замкавая стайня і інш. гаспадарчыя пабудовы. Верхні і Ніжні замкі абмываліся водамі р. Бычок з дапамогай плацін і штучнага рова, які злучаў р. Бычок з р. Случ. У 18 ст. гэтыя замкі мелі назву «Земляны замак».

Новы замак (Цытадэль) размяшчаўся на левым беразе р. Случ на тэр. Новага места (горада). Ён меў форму квадрата пл. 1,1 га з 4 бастыёнаў і адным равелінам. На бастыёнах і курцінах стаялі драўляныя вежы, што не ўласціва для зах.-еўрапейскай бастыённай фартыфікацыі. Новы замак быў абкружаны вадзяным ровам, злучаным з р. Случ патаемным шлюзам. Уваход у Цытадэль вёў цераз мост і браму, якія размяшчаліся перад гал. уваходам у замак. Потым па мосце цераз вадзяны роў траплялі ў замкавую браму, якая знаходзілася ў тоўшчы вала. Яна была 1-павярховая і мела вароты з 2 палотнішчаў, збітых з дубовых дошак. Новы замак уваходзіў у сістэму знешніх умацаванняў Слуцка 17—18 ст.

*Літ.*: Грыцкевич А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991; Калядзінскі Л. Верхні замак Слуцка // Бел. гіст. часопіс. 1996. № 1.

***Лявон Калядзінскі, Міхась Ткачоў.***

**СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ**, вырабы ручнога шаўкаткацтва на Беларусі ў сярэдзіне 18 — сярэдзіне 19 ст. Назва ад г. Слуцк, дзе яны выраблялся на *Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў*. Напачатку С.п., як і нясвіжскія, капіравалі ўзоры, што прывозілі з Блізкага Усходу, потым сталі ўключаць у арнамент нац. матывы, кветкі мясцовай флоры — васількі, незабудкі і інш. З 1750-х г. у Нясвіжскай, пасля ў Слуцкай мануфактуры працаваў вядомы майстар з г. Станіслаў (Украіна) Я.Маджарскі (гл. ў арт. *Маджарскія*), які распрацаваў новы тып пояса — слуцкі, назва якога стала сінонімам усіх доўгіх шаўковых паясоў. Сувязь з усх. ўзорамі страчвалася. С.п. мелі гарманічныя суадносіны частак, выпрацавалася выразная ўстойлівая структура арнаменту. Бел. майстры пераналі і творча перапрацавалі ўсх. рамяство, надалі яму мясцовы характар. Ткалі С.п. даўжынёй 2—4,5 м з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак (т.зв. літыя паясы, правы бок іх быў цалкам затканы залатой ніткай, якая закрывала шаўковую аснову). Рабілі паясы аднабаковыя (з адваротным бокам), 2-баковыя (абодва бакі правыя ці адзін двухбаковы і адзін адваротны) і 4-баковыя (па ўсёй даўжыні былі падзелены на палавіны з утком рознага колеру). Пояс складаўся з сярэдніка з абламоўкай і 2 канцоў. Сярэднік арнаментаваўся папярочнымі гладкімі ці ўзорыстымі палосамі, радзей узор быў сеткаваты, у гарошак і інш. Па краях пояса ішла арнаментальная абламоўка (шлячок). Канцы мелі складаную арнаментоўку, найчасцей з 2 матывамі. Найб. тыповыя матывы: авал, абкружаны лісцем са сцяблінкамі і кветкамі; кветкі на доўгім сцябле з галінкамі, якія выходзяць з зямлі ці з ваз; букеты кветак з хвалепадобным абрамленнем. На рагу пояса з абодвух бакоў ткалася метка на старaслав. і лацінскай мовах («Слуцк», «У горадзе Слуцку», «Зроблена ў Слуцку»). Канцы пояса часам абшываліся махрамі. Шаўковыя паясы тыпу слуцкіх выраблялі таксама ў Гародні, Нясвіжы, Ружанах, Кракаве, Ліпкаве і Кабылках пад Варшавай, а таксама ў Францыі.

*Літ.*: Якуніна Л.І. Слуцкія паясы. Мн., 1960.

***Дзіна Трызна.***



Слуцкія паясы.

**Случарэцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1791—93 у складзе *Навагародскага ваяводства*. Цэнтр — г. *Слуцк*. Вылучаны з Навагародскага пав. У склад С.п. ўвайшлі Глуская, Капыльская, Клецкая, Ляхавіцкая, Мядзведзіцкая, Слуцкая і Цімкавіцкая парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) большая частка С.п. ў складзе Рас. імперыі; рэшта ў 1793 уключана ў склад *Сталавіцкага павета*.

**Слушкі**, Служкі, шляхецкі род у ВКЛ. Родапачынальнік Ян (Іван) жыў у 15 ст. У час захопу кн. Свідрыгайлам Кіева (каля 1401—04) яго бацькі, відаць, загінулі, а ён вывезены ў Польшчу, дзе ахрышчаны паводле каталіцкага абраду. Яго апекуном быў польскі ўраднік Я.Шчакацінскі. Магчыма, з-за выконвання службы атрымаў мянушку Служка, якая стала прозвішчам. Каля 1429 стаў бургграфам Ольштына, у 1436 атрымаў польск. набілітацыю ад Уладзіслава III з гербам «Волга» (у чырвоным полі сярэбраная ўзброеная рука трымае сярэбраную стралу). Памёр пасля 1472, меў 2 дачок і, відаць, сына Амяльяна, які вярнуў спадчынныя маёнткі на Беларусі, у т.л. Новы Двор каля Менска. Амяльян меў сыноў Рыгора і Івана. Рыгор (? — пасля 1517) быў дваранінам гаспадарскім, намеснікам цырынскім. Відаць, гэта ён згадваецца ў попісе войска ВКЛ 1528 як Слушка Амельяновіч, які выстаўляў 14 коннікаў з гаспадарскага Менскага двара. Ад яго пайшоў далейшы род С., ад Івана Амельянавіча — род Цяпінскіх. Абодва роды сталі карыстацца гербам «Астоя». Найб. вядомыя:

Іван (?—да 1560), сын Рыгора. Гараднічы кіеўскі, дзяржаўца любецкі і навагародскі. Валодаў Новым Дваром, Гатавам і Арэшкавічамі каля Менска, Мухаедавічамі ў Кіеўскім пав.

Павел (?—пасля 1571), сын Рыгора. Войт камянецкі.

Мікалай (?—каля 1583), сын Івана. Стараста крычаўскі з 1577.

Крыштоф (?—каля 1619), сын Мікалая. Падсудак менскі ў 1602, ваявода вендэнскі з 1609.

Аляксандр (каля 1580—ліп. 1647), каралеўскі дваранін, стараста рэчыцкі, прапойскі, гомельскі, менскі, кашталян менскі ў 1618—28 і жамойцкі ў 1628—38, ваявода навагародскі ў 1638—42 і троцкі з 1642.

Яўстахій Адам (каля 1615—39), сын Аляксандра. Стараста рэчыцкі.

Зыгмунт Адам (?—2.12. 1674), сын Аляксандра. Стараста гомельскі, прапойскі, рэчыцкі (1658—72), надворны харужы ВКЛ у 1649—56, вял. харужы ВКЛ з 1656.

Багуслаў Юрый (?—пасля студз. 1658), сын Аляксандра. Стараста рэчыцкі з 1639, стольнік ВКЛ у 1643—45, падскарбі надворны ВКЛ з 1645. На яго дзецях род С. згас.

Юзаф Багуслаў (22.10. 1652—8.10.1701), сын Багуслава Юрыя. Стараста рэчыцкі (1672—88), пунскі, пенянскі, лянцкаронскі, латычоўскі, азярыцкі, лоўчы ВКЛ у 1673—76, вял. харужы ВКЛ у 1676—83, маршалак надворны ў 1683—85, кашталян троцкі ў 1785 і віленскі з 1685, адначасова гетман польны ВКЛ з 1685.

Дамінік Міхаіл (каля 1655—31.1.1713), сын Багуслава Юрыя. Палкоўнік, стараста рэчыцкі, суражскі, барысаўскі, ваявода полацкі з 1686.

*Літ.*: Вяроўкін-Шэлюта У. Васіль Цяпінскі й род Слушкаў-Цяпінскіх у 16 ст. // Годнасыць. 1994. № 1; Laberschek J. Najstarsze nobilitacje w Polsce na przykładzie Mikołaja wójta lelowskiego i Jana Słuszki z Mirowa // Homines et societas. Poznań, 1997; Sadkowska C. Genealogia rodu Słuszków i ich archiwum: (szkic genealogiczno-archiwalny) // Archeion. Warszawa, 1969. Vol. 52.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Слюнькова** Інэса Мікалаеўна (н. 9.8.1953, Мінск), беларускі і расійскі гісторык архітэктуры. Д-р архітэктуры (2002). Вучылася ў Бел. політэхнічным ін-це (1970—73), скончыла Маскоўскі архітэктурны ін-т (1977). З 1973 у Маскве. Працавала ў ЦНДІП горадабудаўніцтва, з 1984 у НДІ тэорыі архітэктуры і горадабудаўніцтва, з 1994 у Рас. акадэміі архітэктуры і будаўнічых навук, НДІ тэорыі і гісторыі выяўленчага мастацтва Рас. акадэміі мастацтваў. З 2003 гал. архітэктар гіст.-культурнага запаведніка «Маскоўскі Крэмль». Даследуе дойлідства і горадабудаўніцтва 14—19 ст.

*Тв.*: Архитектура городов Верхнего Поднепровья XVII—середины XIX в. Мн., 1992; Храмостроительство в России: Традиции и современность. М., 1996 (у сааўт.); Архитектура русской усадьбы. М., 1998 (у сааўт.); Проблемы воссоздания утраченных памятников архитектуры. М., 1998 (у сааўт.); Православное искусство Украины и Белоруссии XIV—XVIII вв. // Православная энциклопедия. Т. 3. М., 2000; Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002; Русская усадьба в старинной открытке: Альбом. М., 2003.

**Смагаржэўскі** Ясон (каля 1714—1.2.1788), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Са шляхецкага роду герба



Ясон **Смагаржэўскі**. Дрэварыт.

«Юноша» з Ваўкавыскага пав. Першапачаткова рыма-каталік, каля 1731 уступіў у ордэн базыльян. Вывучаў тэалогію і філасофію ў Грэчаскім калегіуме ў Рыме (1734—40). З 1740 святар. З 1747 генеральны афіцыял і вікарый Кіеўскай мітраполіі. Каля 1752—58 па даручэнні мітрапаліта Ф.*Грабніцкага* знаходзіўся ў Рыме. У 1762—80 архіепіскап полацкі. 16.9.1772 прысягнуў на вернасць Расіі, атрымаў 2 дэканаты мітрапаліцкай епархіі (Гомельскі і Рагачоўскі, 1773) і Смаленскую епархію (1778), што паставіла пад яго ўладу ўсе парафіі ў землях, далучаных да Рас. імперыі. Абараняў пазіцыі уніяцкай царквы як ад спроб пераводу сваіх вернікаў у праваслаўе, так і ў каталіцтва лацінскага абраду. Імкнуўся абмежаваць дзейнасць правасл. епіскапа *Віктара* Садкоўскага, вярнуць парафіі, якія прынялі праваслаўе, забараніць святарам з Расіі працаваць у прыходах. У 1774 дамогся ад рымскай курыі пацвярджэння пастановы 1624 аб забароне уніятам пераходзіць у лацінскі аб-

рад. У 1774 падрыхтаваў праект епархіяльнай семінарыі ў в. Струнь каля Полацка (адчынена ў 1806). Заахвочваў развіццё базыльянскіх. У 1780—88 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі; спрабаваў захаваць за сабой і пасаду полацкага архіепіскапа, але 2.7.1780 імператрыцай Кацярынай II пазбаўлены архіепіскапства і рас. падданства. Выехаў у Рэч Паспалітую, жыў у сваёй рэзідэнцыі ў г. Радамысль (Кіеўскае ваяв.). Заснаваў семінарыі ў Радамыслі і Житоміры. Намаганні С. не спынілі агульнай тэндэнцыі паслаблення уніяцкай царквы.

*Літ.*: Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; Белоруссия и Литва. СПб., 1890; Historia Kościoła w Polsce. T. 2, cz. 1. Poznań, 1979; Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II (1772—1796 гг.). Мн., 1998.

***Сяргей Казуля.***

**Смаленск** (рус. Смоленск, цяпер горад, цэнтр Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад, цэнтр *Смаленскага княства*, пасля *Смаленскага ваяводства*, на р. Дняпро. Вядомы з 863. З 1-й пал. 12 ст. цэнтр удзельнага княства. У канцы 14 — пач. 15 ст. далучаны вял. кн. Вітаўтам да ВКЛ. Быў важным цэнтрам бел. летапісання. Тут створаны *летапісы смаленскія, Смаленская хроніка, Беларуска-літоўскі летапіс 1446*, магчыма, *Радзівілаўскі летапіс*. Смаленскі полк удзельнічаў у *Грунвальдскай бітве 1410*. Адбылося *Смаленскае паўстанне 1440*. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1514 С. узяты рас. войскамі і застаўся ў складзе Маскоўскай дзяржавы. У 1596—1602 узведзена магутная каменная крапасная сцяна. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* пасля паўтарагадовай аблогі 13.6.1611 С. узяты войскамі Рэчы Паспалітай. Паводле ўмоў *Дэулінскага перамір'я 1618* С. застаўся ў складзе Рэчы Паспалітай. 4.11.1611 горад атрымаў магдэбургскае права, у ім былі створаны 4 рамесныя цэхі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* (т.зв. Смаленская вайна) С. вытрымаў вял. аблогу рас. войск. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* С. 3.10.1654 узяты рас. войскамі і паводле ўмоў *Андросаўскага перамір'я 1667* застаўся ў складзе Расіі. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 20, 377.




Аблога **Смаленска** ў 1611. Размаляваная гравюра.

*Літ.*: Кашпровский Е.И. Борьба Василия II Ивановича с Сигизмундом I Казимировичем из-за обладания Смоленском (1507—1522) // Сб. Историко-филологического общества при Ин-те князя Безбородко в Нежине. Нежин, 1899. Т. 2; Мурзакевич Н. История города Смоленска. 3 изд. Смоленск, 1903; Довгялло Д.И. Очерки бытовой жизни Смоленска в польскую эпоху // Смоленская старина. Смоленск, 1909. Вып. 1, ч. 2; Смоленская оборона 1609—1611 гг. Смоленск, 1939; Мальцев В.П. Борьба за Смоленск (XVI—XVII вв.). Смоленск, 1940; Ластовский Г. Смоленск и Великое княжество Литовское в XIII—XVI вв. // Край Смоленский, 1993. № 7—8; Кром М.М. Неизвестный привилей Сигизмунда I Смоленску (1513 год) // От Древней Руси к России нового времени. М., 2003.

**Смаленскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—17 ст. Цэнтр — г. *Смаленск*. Утворана ў 1508 на аснове *Смаленскай зямлі*. У ходзе *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* С.в. занята ў 1514 маскоўскім войскам. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* Смаленшчына занята войскамі Рэчы Паспалітай, і сойм у 1613 аднавіў С.в. ў складзе ВКЛ, што прызнала Расія пры заключэнні *Дэулінскім перамір'і 1618*. У склад С.в. ўвайшлі ранейшыя смаленскія землі з гарадамі Белы, Дарагабуж, Рослаў, Смаленск, Сярпейск, маскоўскія ўезды Невель і Себеж з Красным Гарадком, Северская зямля з Трубчэўскім княствам, Почапская вол. У 1625 у складзе С.в. створаны *Старадубскі павет*, землі, што ляжалі на Пн ад яго, утваралі Смаленскі пав. Паводле ўмоў *Палянаўскага міру 1634*, якім скончылася *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, са складу С.в. перададзены Расіі Сярпейская вол. На той тэрыторыі Севершчыны, што засталася, у 1635 створана Чарнігаўскае ваяв. ў складзе Польскага каралеўства. У 1644 кароль у якасці жэста добрай волі перадаў Расіі Трубчэўск. У 1638 са Смаленскага пав. перададзены ў Полацкае ваяв. Невельская, Себежская і Краснагорская воласці. У 1620—40-я г. ў С.в. праведзена валочная памера. Зямля раздавалася атрадам казакоў, літ. татараў, пушкарам і інш. ваенна-служылым людзям, шляхце (на ленным праве). У 1633 Невельскую і Себежскую вол. ў лен атрымаў К.Радзівіл. 9 гарадоў С.в. ў 1611—26 атрымалі магдэбургскае права, у Смаленску створаны 4 рамесныя цэхі. У 1654 у ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* С.в. занята рас. войскамі. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* Смаленшчына засталася ў складзе Расіі, аднак у Рэчы Паспалітай працягвалі існаваць смаленскія павятовыя пасады (у 1793



смаленскія ваявода і кашталян перайменаваны ў мерацкіх); смаленская шляхта-выгнанцы (*эгзулянты*) збіралася на павятовыя соймікі ў Вільні.

Ваяводы смаленскія: Юрый Глебавіч (1508—14), Ю.А.Салагуб (1514), В.Тышкевіч (1569—70), Р.Б.Валовіч (1571—77), Ю.Ю.Осцік (1578—79), Ф.С.Кміта (1579—87), Я.Я.Валмінскі (1588—95), Я.С.Абрамовіч (1596—1602), П.Дарагастайскі (1605—11), М.Глябовіч (1611—21), А.П.Сапега (1621), М.Друцкі-Саколінскі (1621), А.Гасеўскі (1625—39), К.Гасеўскі (1639—43), Е.К.Глябовіч (1643—53), П.Я.Сапега (1653), П.К.Абуховіч (1653—56), А.М.Саковіч (1658—62), М.К.Пац (1663—67), Р.К.Падбярэскі (1667—77), К.М.Есьман (1677—86), С.К.Песачынскі (1686—91), А.П.Тарла (1691—1710), Я.Кос (1710—12), А.Я.Патоцкі (1712—14), Ф.Цэтнер (1714—32), М.З.Замойскі (1732—35), С.Патоцкі (1735—44), П.П.Сапега (1744—71), Ю.С.Сасноўскі (1771—75), Ю.Тышкевіч (1775—90), Ф.К.Сапега (1791—93).

Кашталяны смаленскія: Р.Ю.Трызна (1569—72), Д.М.Пац (1572—78), Ю.М.Зяновіч (1579—83), М.Пац (1584), Б.П.Сапега (1585—88), С.П.Нарушэвіч (1588—89), А.В.Тышкевіч (1589—90), В.В.Агрыпа (1590—97), В.Шэмет (1597—99), Я.Я.Зяновіч (1600—14), І.І.Мялешка (1615—22), М.Л.Саламярэцкі (1623—26), Б.Стравінскі (1627—31), А.Масальскі (1631—38), Д.К.Абрынскі (1638), Е.Храптовіч (1639—43), П.Рудаміна-Дусяцкі (1643—49), А.Кірдзей-Радзівановіч (1649—53), У.Валовіч (1653—56), К.Л.Еўлашэўскі (1656—59), Я.Далмат-Ісайкоўскі (1659), П.Тышкевіч (1660—63), С.К.Кандзежаўскі (1663—65), С.Ф.К.Вільчак (1665—93), Я.Ф.Храпавіцкі (1693—94), К.А.Храпавіцкі (1695—1703), К.М.Друцкі-Саколінскі (1703—12), К.Б.Неміровіч-Шчыт (1713—20), Я.Сцыпіён (1720—38), К.І.Несялоўскі (1738—52), С.А.Бужынскі (1752—63), Т.Бужынскі (1763—70), А.Зянковіч (1770—90), А.Сухадольскі (1790—93).

*Літ.*: Довгялло Д.И. Очерки бытовой жизни Смоленска в польскую эпоху // Смоленская старина. Смоленск, 1909. Вып. 1, ч. 2; Думин С.В. Социально-политическое развитие городов Смоленского воеводства в составе Речи Посполитой (1618—1654 гг.) // Проблемы истории античности и средних веков. М., 1980; Его ж. Ремесло и ремесленники Смоленского повета Речи Посполитой в первой половине XVII века // Проблемы истории античности и средних веков. М., 1981; Его ж. Повинности крестьян Смоленского края в первой половине XVII в. // Землевладение и повинности феодально зависимых крестьян нечерноземной полосы (XVI—первая половина XIX вв.). Смоленск, 1982; Его ж. Крестьяне западнорусских земель под властью феодалов Речи Посполитой // Основные категории крестьян в период позднего феодализма (XVII—первая половина XIX вв.). Смоленск, 1985; Его ж. К истории развития ленного землевладения в Речи Посполитой в XVII в.: (Смоленское воеводство в земельной политике династии Вазов) // Сов. славяноведение. 1986. № 2; Флоря Б.Н. Положение православного населения Смоленщины в составе Речи Посполитой // Revue des études slaves. 1998. F. 2; Ostrowski B. Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej w XVII wieku // Acta baltico-slavica. Wrocław etc., 1980. T. 13.

***Валерый Пазднякоў.***

**Смаленскае княства**, феадальная дзяржава ў 12—15 ст. Цэнтр — г. *Смаленск*. Займала тэрыторыю сучасных Смаленскай, часткі Маскоўскай, Калужскай, Цвярскай, Бранскай абласцей Расіі, усх. раёнаў Магілёўскай і Віцебскай абласцей Беларусі. Паліт. адасабленне Смаленска пачалося ў 11 ст., але да пач. 12 ст. ён заставаўся кіеўскай воласцю. Самастойным С.к. стала пры Расціславе Мсціславічу [1125—59], пры якім дасягнула найб. памераў. У 1136 у С.к. арганізавана самастойная *Смаленская праваслаўная епархія*. На тэр. сучаснай Беларусі былі смаленскія воласці *Басея*, Мірацічы (па р. Мярэя), Вітрына, Копысь, Лучын, Прупой (Прапойск, цяпер Слаўгарад), Крэчут (Крычаў). У 2-й пал. 12—13 ст. пад кантролем Смаленска даволі часта знаходзіўся Віцебск. Пасля смерці кн. Мсціслава Давыдавіча (1230) пачаўся заняпад С.к., абумоўлены ўсобіцамі паміж 2 лініямі смаленскіх князёў — Раманавічамі і Давыдавічамі. У 2-й пал. 13 ст. са складу С.к. вылучаліся Вяземскі і Мажайскі ўдзелы. У пач. 14 ст. Смаленск канчаткова страціў кантроль над Віцебскам, але ў сферу яго ўплыву трапіў Бранск. У пач. 14 ст. ад С.к. адышлі да ВКЛ землі Падняпроўя, басейн Проні, Верхняе Паволжа. Пры кн. Іване Александравічу [1313—58] Смаленск трывала трапіў пад уплыў ВКЛ. Кн. *Святаслаў Іванавіч* [1358—86] імкнуўся да захавання незалежнасці С.к., але ў выніку паходаў ВКЛ яно страціла значную частку тэрыторыі на Пд і Пн, у т.л. Мсціслаў і Ржэў. Святаслаў Іванавіч загінуў у *Мсціслаўскай бітве 1386*. Апошнія смаленскія князі Юрый Святаславіч [1386—92] і Глеб Святаславіч [1392—96] знаходзіліся пад уплывам ВКЛ. Скарыстаўшы міжусобіцу паміж Глебам і Юрыем, вял. князь літ. Вітаўт у 1396 захапіў Смаленск і пасадзіў там сваіх намеснікаў; Глеб Святаславіч быў адпраўлены ў ВКЛ, а Юрый Святаславіч уцёк у Разань да свайго цесця Алега Іванавіча і з яго дапамогай у 1401 вярнуў Смаленск. Вітаўт спрабаваў вярнуць горад у 1401, 1402 і 1403; у 1403 ён захапіў Мажайск, і Смаленск апынуўся ў акружэнні зямель ВКЛ. Скарыстаўшы нейтралітэт Масквы і смерць Алега Іванавіча ў 1404, Вітаўт вярнуў Смаленск: «винных всех... позабивал до троих тысячей, и, абы в Смоленску не было болшей уже бунтов, а княжество обернул в воеводство». Такім чынам, С.к. было скасавана і на яго аснове створана *Смаленская зямля*.

*Літ.*: Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV столетия. Киев, 1895; Алексеев Л.В. Смоленская земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980; Ластовский Г. Смоленск и Великое княжество Литовское в XIII—XVI вв. // Край Смоленский, 1993. № 7—8.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Смаленскае паўстанне 1440**, выступленне жыхароў *Смаленска* супраць улады ВКЛ і за аднаўленне самастойнага *Смаленскага княства*. Пачалося вясной 1440, калі смаленскі ваявода А.Саковіч пачаў прыводзіць смалян да прысягі на вернасць новаму вял. кн. літоўскаму Казіміру IV Ягелончыку. У горадзе актывізавалася групоўка баяр і «чорных людзей», якая абапіралася на падтрымку ўшчэмленых у паліт. правах буйных правасл. феадалаў усх. раёнаў ВКЛ. Карыстаючыся тым, ужо значная частка па-пралітоўску настроеных баяр выехала ў Вільню на выбранне новага вял. князя, частка жыхароў горада ўзняла паўстанне. Пасля перамогі над паўстаўшымі Саковіч выехаў з горада, але смаляне не скарыліся і запрасілі да сябе ваяводам



дарагабужскага кн. Андрэя Дзмітрыевіча, а потым «к собе оспадарем» мсціслаўскага кн. Юрыя Лугвенавіча (гл. ў арт. *Мсціслаўскія*). Ён арыштаваў у Смаленску баяр, што ездзілі да Казіміра, канфіскаваў іх маёмасць, раздаў яе сваім прыхільнікам і вырашыў не падпарадкоўвацца Казіміру. Як і ў 1432, ВКЛ зноў апынулася на мяжы расколу на 2 дзяржавы. Казімір рашучымі дзеяннямі вырашыў задушыць мяцеж. Але пасланыя ім войскі прастаялі 3 тыдні пад Смаленскам, не наважыліся пачынаць штурм і вярнуліся назад. Аднак у новага гаспадара ўсх. «рускіх» зямель ВКЛ Юрыя Лугвенавіча было мала сіл. Калі ў ліст. 1440 сам Казімір з войскам пайшоў на Смаленск, Юрый уцёк у Маскву, а адтуль у Вял. Ноўгарад.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Смаленская вайна**, гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*.

**Смаленская грэка-каталіцкая архіепархія**, адм.-тэр. адзінка уніяцкай царквы. Створана ў 1625. Ахоплівала Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы. Першы архіепіскап — Леў *Крэўза*, з 1640 — кн. Андрэй Квашнін-Залатой, да таго архімандрыт чарнігаўскі, старадубскі і чарэйскі. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* тэрыторыя парафіі адышла да Расіі. У ВКЛ да канца 18 ст. працягвалі прызначацца смаленскія архіепіскапы, якія мелі некалькі прыходаў у прыгранічных з Расіяй раёнах.

*Літ.*: Куракин Ю.Н. Распространение католичества и униатства на землях Черниговского воеводства в 1-ой половине XVII в. // Славяне и их соседи. М., 1991. Вып. 3.

**Смаленская зямля**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у канцы 14—пач. 16 ст. Цэнтр — г. *Смаленск*. Створана ў 1395 вял. кн. Вітаўтам замест *Смаленскага княства*, далучанага да ВКЛ. З канца 15 ст. называлася таксама паветам. Кіравалася намеснікамі вял. князя, першыя з іх былі княжацкага паходжання. Намеснік меў шырокія паўнамоцтвы, выконваў адм., ваенныя і судовыя функцыі. Высокае становішча ў С.з. мелі *акольнічыя*, а таксама казначэй, які збіраў даніну ў велікакняжацкі скарб. Існавалі таксама намеснікі ў Дарагабужы, Дземені, Лучыне. У ваенных адносінах смаленскаму намесніку падпарадкоўваліся намеснікі ў Бранску, Казельску, Любуцку і Мцэнску. С.з. карысталася шырокай аўтаноміяй. На аснове С.з. ў 1508 створана *Смаленскае ваяводства*.

Намеснікі смаленскія: кн. Ямант Тулунтавіч (1395—39), Васіль Барэйкавіч (1395—1401?), кн. Раман Міхайлавіч Бранскі (1401), Ян Бутрым (1422), Гедыгольд (Юрый; каля 1424), Бутрым (Юрый; 1435), Іван Гаштольд (1436—40), Андрэй Саковіч (1440), кн. Сямён Ямантавіч (1441—45), Судзівой Валімунтавіч (1445—47), Сенька Пётр Гедыгольдавіч (1447—51), Міхаіл Кезгайлавіч (1451—58), Івашка Вяжэвіч (1459—66, 1469—75), Мікалай Нямíравіч (1467—69), Мікалай Радзівілавіч (1482—86), Іван Іллініч (1486—90), Юрый Глебавіч (1490—99), Мікалай Іванавіч Ілліініч (1499), Станіслаў Пятровіч Кішка (1500—03), Юрый Андрэевіч Салагуб (1503—07), Юрый Іванавіч Зяновіч (1507—08).

**Смаленская праваслаўная епархія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Створана ў 1136 па ініцыятыве смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча. Ахоплівала тэрыторыю *Смаленскага княства* (у т.л. ўсх. раёны сучаснай Беларусі). Пасля захопу Смаленскага княства вял. кн. Вітаўтам (канчаткова ў 1404) у складзе ВКЛ. Падпарадкоўвалася мітрапаліту кіеўскаму і ўсяе Русі. Пасля захопу Смаленшчыны вял. князем маскоўскім Васілём III у 1514 смаленскі епіскап Варсанофій пазбаўлены кафедры за ўдзел у змове, епархія падначалена маскоўскаму мітрапаліту. З 1515 епіскапы мелі тытул «смаленскі і бранскі», з 1589 смаленскія іерархі мелі тытул архіепіскапа. З 1611 С.п.е. ў складзе ВКЛ, у 1625 замест яе створана *Смаленская грэка-каталіцкая епархія*. Пасля заняцця Смаленшчыны рас. войскамі ў 1654 адноўлена ў складзе Расіі.

**Смаленская рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка каталіцкай царквы. Створана каралём Жыгімонтам III у 1611 пасля заняцця Смаленска ў час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, атрымала матэрыяльнае забеспячэнне ў 1618 і 1625, зацверджана рымскім папам у 1636 (у складзе Гнезненскай мітраполіі). Першы біскуп (П.Парчэўскі) прызначаны ў 1637. Ахоплівала Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы. Быў створаны кафедральны капітул з 6 прэлатаў і 12 канонікаў. У парафіі было некалькі касцёлаў, кляштары бернардзінцаў, дамініканцаў, місіянераў, езуіцкі калегіум у Смаленску. Пасля заняцця Смаленшчыны рас. войскамі ў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у епархіі засталіся 3 парафіі (Невельская, Себежская і Веліжская). Кадры для епархіі рыхтавала семінарыя Інфлянцкай епархіі ў Краславе. Смаленскія біскупы жылі ў Вільні, пасля ў Варшаве. Сойм 1776 назначыў ім гадавое ўтрыманне ў памеры 20 тыс. злотых. Скасавана рымскім папам у 1783, яе парафіі адышлі да Магілёўскай архіепархіі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Смаленская хроніка**, беларускі гісторыка-літаратурны твор. Напісаны, хутчэй за ўсё, у канцы 1430-х г. у *Смаленску* ў асяроддзі таго правасл. духавенства, дзе ўзнікла *«Пахвала Вітаўту»* і складаўся *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*. Змешчана ў розных спісах Бел.-літ. летапісу 1446. Храналагічна ахоплівае перыяд 1430—36. Прысвечана апісанню падзей у ВКЛ пасля смерці ў 1430 вял. кн. Вітаўта, барацьбы за велікакняжацкую ўладу паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Адкрываецца кароткім апавяданнем пра каранацыйны з'езд Вітаўта. Аўтар С.х. — прыхільнік Жыгімонта Кейстутавіча, брата Вітаўта. Падзеі ў творы выкладзены бегла, па-дзелавому суха, з выкарыстаннем моўна-стылявых форм і сродкаў.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Смаленскі абраз Маці Божай**, Смаленская Адзігітрыя, адна з галоўных праваслаўных святынь Беларусі і Расіі. Паводле царк. падання, намаляваны евангелістам Лукой, да 11 ст. захоўваўся ва Улахернскім храме ў Канстанцінопалі, у 1046 прынесены ў Чарнігаў візантыйскай прынцэсай Ганнай, нявестай кн. Усевалада Яраславіча. Яго сын Уладзімір Усеваладавіч Манамах перанёс абраз у Смаленскі Успенскі сабор, пабудаваны ім у 1101. *Соф'я Вітаўтаўна*, жонка маскоўскага вял. кн. Васілія Дзмітрыевіча, прывезла ў 1398 абраз у Дабравешчанскі сабор Масквы. У 1456 па просьбе вял. князя літоўскага Казіміра IV Ягелончыка абраз вернуты ў Смаленск епіскапам



*Місаілам*, а ў Маскве засталася яго копія. У памяць адваявання Маскоўскай дзяржавай Смаленска ў пач. 16 ст. ў Маскве быў заснаваны Новадзявочы манастыр са Смаленскім саборам і прызначана дата святкавання цудадзейнага абраза (дакладней, яго маскоўскай копіі) 28 ліп. па старым стылі. У 1666 у Смаленску на Дняпроўскай вежы гар. сцяны пастаўлена новая копія Смаленскай Адзігітрыі (намалявана ў 1602), у 1812 гэты абраз быў пры дывізіі генерала А.П.Ярмолава, у т.л. ў Барадзінскай бітве. Абраз з Успенскага сабора таксама вывозіўся ў 1812, потым вернуты. Лёс сапраўднага абраза ў 20 ст. няпэўны: паводле адной версіі — ён знік у 1941; паводле другой — загінуў яшчэ ў 1611 у час пажару пры штурме Смаленска войскамі Рэчы Паспалітай; некаторыя каталіцкія гісторыкі лічаць, што абраз у 1611 трапіў да дамініканцаў; паводле царк. традыцый, абраз і цяпер знаходзіцца ў Смаленскім Успенскім саборы. Вядома мноста копій С.а.М.Б., сярод іх каля 30 цудадзейных і шанаваных, у т.л. на Беларусі найбольш знакамітыя абразы — Дубянецкі (16 ст., цяпер у Нац. маст. музеі Беларусі) і Дзісенскі (18 ст.?). Іл. гл. ў т. 1, с. 112.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Смаленскі езуіцкі калегіум**, сярэдняя навучальная ўстанова ў *Смаленску* ў 1620—54. Узнік на аснове езуіцкай рэзідэнцыі, якую заснаваў у 1611 ваявода смаленскі А.Гасеўскі. У 1611 фундацыю павялічыў кароль Жыгімонт III. У 1619—21 пабудаваны драўляны касцёл. У 1617 адчыніўся клас граматыкі, пасля — паэтыкі, у 1625 — рыторыкі, у 1641 — маральнай тэалогіі (для святароў), у 1644 — філасофіі, матэматыкі і фізікі. У 1646 — 700 вучняў, у т.л. шмат праваслаўных. Дзейнічала бурса для незаможных.

**Смаленскі Псалтыр**, беларускі рукапісны помнік канца 14 ст. Паходзіць з *Мсціслаўскага Пустынскага Успенскага манастыра*. Напісаны на пергаменце Лукой Смаляніным (Смаленцам) у 1395 па заказе манаха Аляксея. Уключае Псалтыр «з паследаваннем», урыўкі з Апостала і Евангелле ад Іаана, некалькі запісаў, выкананых тайнапісам. Аздоба складаецца з 3 мініяцюр, 22 заставак, 150 ініцыялаў з мудрагелістым плеценым арнаментам, выявамі людзей, жывёл і пачвар, а таксама сімвалічнага малюнка (леў з арлінымі крыламі, заяц, мядзведзь, крылаты барс, пачвара з чалавечай галавой паміж рагоў). Перапісчык (ён жа і афарміцель) выкарыстоўваў сінюю, зялёную і чырвоную фарбы, золата. У 1657 рукапіс паводле загаду патрыярха Нікана вывезены ў манастыр на востраве Кій Анежскай губы Белага мора, адсюль другая яго назва — «Анежскі Псалтыр». Зберагаецца ў Дзярж. гіст. музеі ў Маскве.

*Літ.*: Богуславский Г.К. Замечательный памятник древней смоленской письменности XIV в. и имеющийся в нем рисунок символико-политического содержания // Древности: Тр. Москов. Археол. о-ва. М., 1906. Т. 21, вып. 1; Долгов С.О. Архангельская Псалтырь // Там жа.

***Мікола Нікалаеў.***

**«Смаленскія граматы XIII—XIV стст.»** («Смоленские грамоты XIII—XIV вв.»), зборнік смаленскіх грамат 12—14 ст., выдадзены Ін-там рус. мовы АН СССР у Маскве ў 1963. Апублікаваны комплекс актаў Смаленскай епархіі сярэдзіны 12—пач. 13 ст. (паводле копій 16 ст.); дагавор пра ўмовы гандлю невядомага смаленскага князя з Рыгаю і Гоцкім берагам (в-аў Готланд) прыкладна 1223—25; дагавор Смаленска з Рыгаю і Гоцкім берагам 1229 (6 спісаў 13—14 ст); судовая грамата смаленскага кн. Фёдара Расціславіча пра нямецкі звон 1284; пацвярджальныя граматы князёў Фёдара Расціславіча 1284, Аляксандра Глебавіча каля 1300, Івана Аляксандравіча 1-й пал. 14 ст.; грамата смаленскага кн. Юрыя Святаславіча пра саюз з каралём польскім і вял. князем літоўскім Ягайлам 1386. Большасць грамат надрукавана з арыгіналаў з Рыжскага гар. архіва, а таксама з Нац. музея ў Кракаве, архіва Ленінградскага аддзялення Ін-та гісторыі АН СССР. Цэнтр. дзярж. архіва стараж. актаў у Маскве. Выданне здзейснена найперш з лінгвістычнымі мэтамі з максімальным набліжэннем да арыгіналаў, з выкарыстаннем літар, што выйшлі з ужытку. Змешчаны фотаздымкі грамат і прывешаных да іх пячатак. Граматы забяспечаны вял. каментарыямі, дзе адзначана ступень захаванасці дакументаў, асаблівасці почырку, пячатак, абгрунтавана датаванне актаў, адзначаны іх ранейшыя публікацыі. Змешчаны словапаказальнік да тэкстаў грамат, дзе адзначаны ўсе варыянты слоў. Матэрыялы зборніка маюць вял. значэнне для асвятлення гісторыі Полацкай і Віцебскай зямель, якія ў 13—14 ст. мелі цесныя сувязі са Смаленскам. Як адзначаюць складальнікі зборніка, смаленскія граматы, у якіх у 13 ст. ўпершыню выявіліся рысы жывой бел. мовы, «маюць найважнейшае значэнне для вывучэння руска-беларускіх моўных адносін у іх гісторыі».

***Валерый Пазднякоў.***

**Смалявічы** (цяпер горад, цэнтр Смалявіцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., на р. Пліса. Упершыню згадваецца ў 1448 як уласнасць крэўскага намесніка Алехны Даргіевіча. У 1508 падаравана вял. князем К.І.Астрожскаму, які пабудаваў тут царкву св. Мікалая. З 2-й пал. 16 ст. ўласнасць Радзівілаў. У пач. 17 ст. каля 1 тыс. жыхароў, 120 двароў. Мястэчка пацярпела ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, Паўн. вайны 1700—21. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Смалянскі замак**, помнік архітэктуры 1-й чвэрці 17 ст. на паўн.-зах. ускраіне в. Смаляны Аршанскага р-на. Вядомы таксама пад назвамі Белы Ковель ці Малы Ковель. Займаў прамавугольную ў плане пляцоўку (100 x 200 м) на правым беразе р. Дзярноўка. Пабудаваны да 1626 кн. С.А.Сангушкам-Ковельскім (гл. ў арт. *Сангушкі*). Змураваны з буйной цэглы (29 x 13 x 8 см) і палявога каменю. Меў выгляд замкнутага прамавугольніка з унутраным дваром, вуглавымі 3-яруснымі вежамі і 5-яруснай 5-граннай вежай на паўн.-ўсх. фасаднай сцяне. 3-павярховы корпус палаца па перыметры двара меў сцены таўшчынёй 1,2—1,7 м. Муроўка замка паводле тыпу найбольш блізкая да т.зв. галандскай. 5-ярусная вежа вылучаецца вытанчаным рэльефным дэкорам, які мякка кантраставаў з гладкай паверхняй сцен. Арнамент аконных праёмаў і плоская ордэрная раскрапоўка вежаў сведчаць пра стылістычную сувязь з зах.-еўрап. архітэктурай. У матывах складанага рэнесансавага абрамлення рамкі-картуша прасочваюцца галандскія ўплывы. Захаваліся



**Смалянскі замак**. Малюнак Ю.Пешкі. Каля 1802.

сляды вітых усходаў, што ішлі па ўнутр. перыметры вежы, шмат ніш рознага памеру, арачны пераход з гал. корпуса ў вежу, дэталі камінаў. Ёсць звесткі што на схіле жыцця гаспадар замка кн. Сангушка-Ковельскі загадаў размаляваць пакоі карцінамі на рэліг. сюжэты, тэмы смерці і забыцця. З інвентароў замка за 1739 і 1742, калі ён належаў маршалку ВКЛ П.К.Сангушку, вынікае, што «замак мураваны на капцы» быў наўкола «вадою абвіты», перад ім знаходзіўся стаў з мостам і парэнчамі злева, быў вял. склеп. У пакоях стаялі печы з белай кафлі з гербам «Пагоня». Дапаможныя гасп. службы размяшчаліся не ў замку, а за ставам. Замак быў разбураны ў вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайну 1700—21. Заняпад С.з. пачаўся з канца 18 ст. і завяршыўся ў сярэдзіне 19 ст. (новы гаспадар Смалян сенатар Сямёнаў прадаў замак на цэглу). Захаваліся 5-ярусная вежа і рэшткі сцен.

*Літ.*: Баравы Р.В. Да гісторыі замка ў Смалянах // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. № 3; Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мн., 1977. С. 58—59.

**«Смаргонская акадэмія»**, жартоўная назва промыслу лавіц і дрэсіравацъ мядзведзяў, заснаванага князямі Радзівіламі ў *Смаргоні*; адна са школ беларускіх *скамарохаў*. Промысел існаваў з 17 ст. да канца 18 ст., паводле інш. звестак — да пач. 19 ст. Мядзведзяў дрэсіравалі недалёка ад Смаргоні (на т.зв. Французскіх узгорках) у некалькі прыёмаў. Спачатку маладых мядзведзяў вучылі «танцаваць», для чаго іх саджалі (па 2—3) у спец. клетку, у якой падагравалася дно, і прывучалі стаяць на задніх лапах і пераміналца з лапы на лапу (болевы рэфлекс пад удары бубна), потым вучылі барукацца, кланяцца. Павадыры («мядзведнікі») з вучонымі звярамі хадзілі на заробкі таксама па кірмашах Расіі, Венгрыі, Германіі і інш., вялі прыбытковы гандаль дрэсіраванымі мядзведзямі. Сцэна з дрэсіраваным мядзведзем была і ў батлейцы: выводзілі лялек — скамароха і мядзведзя, якіх называлі «смаргонскі вучыцель з вучнем» (1902, Міншчына).

*Літ.*: Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983.

*Гурый Барышаў.*

**Смаргонскі кальвінскі збор**. Існаваў у мяст. *Смаргонь* у 16—17 ст. Першапачаткова ў 1503 (1505?) быў пабудаваны драўляны касцёл святых Міхала і Аляксея па фундацыі Ю.І.Зяновіча. Сын Ю.І.Зяновіча Юрый на месцы касцёла пачаў будаваць мураваны кальвінскі збор, які скончаны ў 1552 (1553?). М.Б.Зяновіч пакінуў кальвінізм і перайшоў у каталіцтва. Яго сястра Соф'я пасля смерці брата ў 1621 вярнула храм католікам (ён стаў называцца Троіцкім касцёлам). У 1866—1921 — Міхайлаўская царква, у 1921—47 зноў касцёл. З 1947 не дзейнічаў (у ім быў склад, магазін). Рэстаўрыраваны ў 1858 і 1926. Купальны храм цэнтрычнага тыпу (вышыня 19,2 м), у плане васьміграннік (дыяметр 13,5 м), злёгку выцягнуты па падоўжнай восі. З боку гал. фасада да яго прымыкае шмат'ярусная вежа-званіца (захаваліся 2 ярусы), завершаная нізкім шатром на 8-гранным барабане. У месцы злучэння званіцы і асн. аб'ёму прыбудавана цыліндрычная вежа. Магутныя сцены будынка (1,8—3,0 м) прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Пластычны парапет апрацаваны лапаткамі і характэрнай рэнесансавай аркатурай з гіркамі. Уваход у храм праз квадратны ў плане ніжні ярус вежы-званіцы, перакрыты крыжовым скляпеннем. Унутраная прастора асн. аб'ёму перакрыта сферычным купалам. Аснова купала аддзелена ад сцен невял. карнізам з дэнтыкуламі. Плоскасці сцен раскрапаваны шматлікімі арачнымі нішамі. Купал дэкарыраваны фрэскамі. Над прытворам — хоры, перакрытыя крыжовым скляпеннем. Парапет хораў мае філянговую крапоўку. Ярусы званіцы былі аб'яднаны вітымі ўсходамі. Пад цэнтр. часткай — крыпта. Пасля рэстаўрацыі (1970, Спец. навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні, архітэктары В.Сахно, П.Седляроў, С.Друшчыц) тут была выставачная зала, з 1990 касцёл.

**Смаргонь** (цяпер горад, цэнтр Смаргонскага р-на), мястэчка ў Ашмянскім пав., на р. Гервятка і Оксна (левы прыток Віліі). Вядома з 15 ст. як прыватнае мястэчка Зяновічаў, з 1-й пал. 17 ст. — Радзівілаў, пасля Пшаздзецкіх. У сярэдзіне 16 ст. збудаваны *Смаргонскі кальвінскі збор.* Каля 1590 у С. заснавана *паперня*, дзейнічалі школа і шпіталь. Тут упершыню пачалі выраб абаранкаў (спачатку наз. «абаранкі», «смаргонкі»), найб. развіццё гэты промысел атрымаў у 17—19 ст. У 1622 у С. 139, у 1640 — 155 дымоў, 20% жыхароў займаліся рамяством. У 17 ст. Радзівілы заснавалі школу дрэсіроўкі мядзведзяў — *«Смаргонскую акадэмію»*. У 1788 у С. 393 двары, 3 фальваркі, 3 бровары, 3 млыны, 2 прадпрыемствы па выпуску будаўнічых матэрыялаў, гарбарня. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Ковкель И.И., Мараш И.Я. Сморгонь: Ист.-экон. очерк. Мн., 1984.

**Сматрыцкі** Мялецій (свецкае Максім Герасімавіч; 1577, с. Смотрыч, цяпер гар. пасёлак Дунавецкага р-на Хмяльніцкай вобл., Украіна—27.12. 1633), беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч. Першапачатковую адукацыю атрымаў пад кіраўніцтвам бацькі і вучонага грэка Кірылы Лукарыса, будучага канстанцінопальскага патрыярха. Скончыў Віленскую акадэмію. З 1601 у кн. Б.Саламярэцкага ў мяст.

Баркулабава Аршанскага пав. Разам з сынам князя ўдасканальваў веды ў Лейпцыгскім і Вітэнбергскім ун-тах; пабываў у Нюрнбергу, Вроцлаве, Вюрцбургу. Потым жыў ў маёнтках Саламярэцкага каля Менска. Уступіў у Віленскае правасл. брацтва пры Троіцкім манастыры, дзе зблізіўся з *Лявонціем* Карповічам. Выступаў супраць *Берасцейскай уніі 1596*. Пісаў на стараж. бел. і ўкр., лацінскай і польскай мовах (многія творы напісаны макаранічнай мовай). У 1608 супраць твораў І.*Пацея* «Ерасі» і «Гармонія» выдаў «Антыграфі», у 1610 пад псеўданімам Тэафіла Арталога — *«Трэнас»*, дзе ад імя «маці-царквы», што сімвалізавала прыгнечаную радзіму, заклікаў народы Беларусі і Украіны да аб'яднання супраць каталіцызму. Твор выклікаў шырокую грамадска-паліт. рэакцыю. На яго кнігу палемічнымі творамі адказалі П.*Скарга* і І.Марахоўскі. У 1617 пастрыгся ў манахі пад імем Мялецій. Працаваў у брацкай школе *Віленскага Святадухаўскага манастыра*, рэктарам Кіеўскай брацкай школы (1618—20). Вынікам пед. дзейнасці стала «Грамматики словенския правильная синтагма» (Еўе, 1618/1619), дзе ўпершыню на высокім навук. узроўні тлумачыліся арфаграфія, этымалогія, сінтаксіс і прасодыя. Больш як 2 стагоддзі яна была адным з самых аўтарытэтных падручнікаў па слав. мовазнаўстве; двойчы перавыдавалася ў Маскве (1648, 1721), вытрымкі з яе І.*Капіевіч* надрукаваў у Галандыі («Руковедение во грамматику словеноросcийскую», 1706). У 18—1-й пал. 19 ст. яна стала ўзорам для сербскай, харвацкай, румынскай і балгарскай граматык. З 1620 архіепіскап полацкі, епіскап віцебскі і мсціслаўскі. Аўтар «Трактата пра паходжанне Святога Духа» і «Палінодыі» (каля 1615), прадмовы да «Евангелля вучыцельнага патрыярха Каліста» (1616), «Казання... на чэснае пахаванне... Лявонція Карповіча» (1620), «Апраўдання нявіннасці» і «Абароны апраўдання» (1621), «Дадатку да абарон апраўдання» і «Выкрывання з'едлівых твораў» (1622), «Юстыфікацыі» і «Супплікацыі» на імя Сената і караля (1623). Напалоханы ўзмацненнем нац.-вызваленчага руху і забойствам уніяцкага архіепіскапа І.*Кунцэвіча*, паломнічаў па святых мясцінах Блізкага Усходу



Мялецій **Сматрыцкі**. Перамалёўка з загінуўшага партрэта 17 ст.

(1624—25). У 1627 тайна, у 1628 адкрыта перайшоў на бок уніятаў. У творах «Апалогія», «Разважанне пра шэсць розніц паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі», «Пратэстацыя» (усе 1628), «Паранэзіс» і «Экзатэзіс» (1629) адрокся ад сваіх антыуніяцкіх твораў, выступаў супраць правасл. пісьменнікаў-палемістаў С.*Зізанія*, Клірыка Астрожскага, Хрыстафора Філалета. С. — прадстаўнік барока. Стыль і мова яго твораў сталі ўзорам для Карповіча, З.Капысценскага, А.Мужылоўскага і інш. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 63, 123.

*Літ.*: Осинский А.С. Мелетий Смотрицкий, архиепископ Полоцкий. Киев, 1912; Загайко П.К. Українські письменники-полемісти кінця XVI—початку XVII ст. в боротьбі проти Ватикану і унії. Київ, 1957; Прокошина Е.С. Мелетий Смотрицкий. Мн., 1966; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Німчук В.В. Граматика М.Смотрицького — перлина давнього мовознавства // Мелетий Смотрицький. Граматика. Київ, 1979; Короткий В.Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. Мн., 1987.

***Уладзімір Кароткі.***

**смерды**, назва сельскага насельніцтва на Русі з 11 ст. Напачатку С. называлі свабодных абшчыннікаў. Паступова з іх вылучылася залежная ад дзяржавы, а потым і ад феадалаў група «худых С.», якія мелі сваю гаспадарку, коней і інвентар, плацілі даніну (натуральны аброк) князю. Яны захоўвалі асабістыя свабоду і правы, адказвалі за правіннасці і злачынствы паводле тагачаснага права. У 13—15 ст. тэрмін «С.» паступова знік у сувязі з дыферэнцыяцыяй сялянства. Апошняя згадка пра С. на Беларусі ў дагаворной грамаце 1440 вял. князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча пра ўстанаўленне міру і ўмовы гандлю Полацка і Віцебска з Ноўгарадам.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892; Юшков С.В.Общественно-политический строй и право Киевского государства. М., 1949; Греков Б.Д. Крестьяне на Руси с древнейших времен до XVII в. Кн. 1. 2 изд. М., 1952.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Сміглецкі** Марцін (11.11.1563, Львоў, Украіна—26.7.1618), тэолаг і філосаф, пісьменнік-палеміст Рэчы Паспалітай. У 1581 у Рыме ўступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў Рыме, вывучаў філасофію (1582—84) і тэалогію (1584—86) пад кіраўніцтвам Ф.Суарэса і Р.Беларміна. Пасля вяртання на радзіму выкладаў у Віленскай акадэміі філасофію (1586—90) і схаластычную тэалогію (1591—99), атрымаў ступень д-ра тэалогіі (1594). Быў рэктарам езуіцкіх духоўных устаноў у гарадах Пултуск (1600—02), Познань (1602—07), Каліш (1609—11). У 1608 і 1615 удзельнічаў у VI і VII Генеральных кангрэгацыях ордэна езуітаў у Рыме. Быў праціўнікам ідэалогіі *арыянства*. У перыяд рэліг. спрэчак вёў шматлікія публічныя дыспуты. Большасць напісаных і выдадзеных ім твораў (на польскай і лацінскай мовах) скіраваны супраць арыян (антытрынітарыяў, сацыніянцаў, польскіх або літоўскіх братоў) і сёння з'яўляюцца важным матэрыялам па гісторыі адносін паміж арыянствам і каталіцкай царквой: «Апісанне навагародскага дыспута з Янам Ліцыніем» (Вільня, 1594), «Пра бажаство спрадвечнае Сына Божага» (Вільня, 1595), «Берасцейскі сінод пад Міхаілам Рагозам, мітрапалітам кіеўскім» (Кракаў, 1597), «Віленскі дыспут з Даніэлем Мікалаеўскім пра аднаго яўнага кіраўніка Царквы Божай» (Вільня, 1599) і інш. На падставе лекцый, прачытаных у Віленскай акадэміі, напісаў трактат «Логіка» (т. 1—2, 1618), які доўгі час



**Смілавіцкі кляштар місіянераў**. Малюнак Н.Орды.



Ф.**Смуглевіч**. Аўтапартрэт.

лічыўся лепшым і найб. папулярным падручнікам у Зах. Еўропе (асабліва ў Англіі, дзе ён выкарыстоўваўся да сярэдзіны 19 ст.).

*Наталля Мазоўка.*

**Смілавіцкі кляштар місіянераў.** Існаваў у 1747—1832 у мяст. Смілавічы Менскага ваяв. Заснаваны Марцыбелай Завішай з Агінскіх. Яна размясціла ксяндзоў з аб'яднання місіянераў пры драўляным касцёле і завяшчала грошы на мураваныя будынкі. Кляштар знаходзіўся на ўскрайку мястэчка пры гасцінцы Менск—Ігумен. У 1774 пабудаваны 2-павярховы мураваны корпус місійнага дома (кляштара). Трохнефавы з 2-вежавым фасадам касцёл Св. Тройцы асвячоны біскупам у 1785, быў таксама і парафіяльным. У сярэдзіне храма было 6 ілюзіяністычных алтароў з абразамі і скульптурамі. У 1832 кляштар зачынены, касцёл заставаўся парафіяльным да 1865, пазней перабудаваны пад царкву. Будынкі разбураны ў 1930-я г.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Смолька** (Smolka) Станіслаў (29.6. 1854, г. Львоў, Украіна—27.8.1924), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1875), праф. (1880), правадзейны чл. АН у Кракаве (1884). Вучыўся ва ун-тах Львова і Гётынгена. У 1877—1902 выкладаў у Кракаўскім ун-це, дзе ўзначальваў кафедры гісторыі Аўстрыі і з 1883 гісторыі Польшчы; у 1895—96 рэктар. З 1902 дырэктар Архіва гродскіх і земскіх актаў у Кракаве. У 1918—24 праф. Каталіцкага ун-та ў Любліне. У сваіх даследаваннях спалучаў паліт. і гаспадарчую гісторыю. Даследаваў гісторыю ВКЛ і яго ўзаемадачыненні з Польшчай. У манаграфіі «Кейстут і Ягайла» (1889) прасачыў працэс умацавання ВКЛ і яго славянізацыю. Крэўскай уніі прысвечана праца «1386 год...» (1886; 2-е выд. 1903 мае назву «Унія Літвы з Каронай). У працы «Найдаўнейшыя помнікі руска-літоўскай гістарыяграфіі: Крытычны разбор» (1889), напісанай як уступ да выдання «Рускія крыніцы пра польскую гісторыю», паставіў мэту ўстанавіць узаемасувязі паміж польскімі і бел.-літ. летапісамі і хронікамі; лічыў, што крыніцамі для Супрасльскага і Слуцкага летапісаў паслужылі летапісы і хронікі, складзеныя ў Смаленску, і актавыя матэрыялы. Выдаваў гіст. крыніцы.

*Тв.*: Szkice historyczne. Ser. 1—2. Warszawa, 1881—82.

*Літ.*: Chodynicki K. Stanowisko Smolki w rozwoju badań nad przeszłością W.Ks.Litewskiego // Ateneum Wileńskie. 1924. R. 2. Z. 7—8; Barycz H. Stanisław Smolka w życiu i nauce. Kraków, 1975.

*Валерый Пазднякоў.*

**Смуглевіч** Францішак (6.10.1745, Варшава—18.9.1807), жывапісец, графік, педагог. Прадстаўнік класіцызму. Вучыўся ў бацькі — Л.Смуглевіча і Ш.Чаховіча. У 1763—84 у Рыме: вучыўся ў А.Марона і з 1766 у Акадэміі св. Лукі; разам з В.Брэна размалёўваў золатам гроты. У 1784—97 у Варшаве, у 1797—1807 праф. жывапісу і малюнка ў Віленскім ун-це. Удзельнічаў у размалёўцы інтэр'ераў Міхайлаўскага палаца ў Пецярбургу (1800—01; не зберагліся), аформіў т.зв. залу Смуглевіча ў б-цы Віленскага ун-та (разам з братам Антоніем), выканаў шмат станковых карцін і манументальных размалёвак у храмах Беларусі (Менск, Гародня, Полацк, Рэчыца і інш.), Літвы і Польшчы. Працаваў у жанрах гістарычным, батальным, партрэта, ствараў алегарычныя і міфалагічныя кампазіцыі. Сярод твораў: «Смерць Марыі» (1784) «Св. Іаан Хрысціцель», «Прыга-

Ф.**Смуглевіч**. Вільня. Канец. 18 ст.





Ф.**Смуглевіч**. Святы Карл Барамей лечыць хворых. Каля 1790.

вор аб выгнанні Арыстыда», «Перамога Александра над Дарыем», «Юдзіф», «Бітва каля Берасцечка ў 1651», «Развітанне апосталаў Пятра і Паўла» (1805), «Персідскія паслы ў караля Марока», «Бітва пры Хаціне ў 1673», «Польскія сяляне за сталом», «Літоўскія сяляне», «Прысяга Т.Касцюшкі на Кракаўскім рынку», «Сяляне ў нацыянальным адзенні», «Сцэны з сялянскага жыцця» і інш.; партрэты Ю.Пешкі, Р.Пшаздзецкага, сям'і Тышкевічаў, епіскапа Гедройца, сям'і Прозараў і інш. Афармляў кнігі, выканаў каля 150 малюнкаў. Сярод яго вучняў мастакі І.Аляшкевіч і Ю.Пешка. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 437, 521.

*Літ.*: Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX—начала XX в. Мн., 1974.

***Леанід Дробаў.***

**Снітка** Андрэй Канстанцінавіч (1866, Вільня—13.3.1920), археограф, археолаг, этнограф, краязнавец і музеязнавец. З дваран Смаленскай губ. Скончыў Рыжскі політэхнічны ін-т (1888). Адзін з арганізатараў Мінскага царк. гіст.-археалагічнага камітэта (з 1908 сакратар, з 1909 старшыня), Мінскага царк.-археалагічнага музея (1908). З 1915 настаўнік гімназіі ў г. Глухаў Чарнігаўскага губ. Вёў раскопкі ў Мінскім, Барысаўскім, Ігуменскім пав., у Пінску, Тураве, Слуцку. Абследаваў манастыры Слуцка, Пінска, Турава. Удзельнічаў у выданні зборніка «Мінская даўніна» («Минская старина», вып. 1—4, 1909—13), у 4-м выпуску якога апісаў дакументы Слуцкага Троіцкага (Трайчанскага) манастыра. Апісаў Нікольскую царкву ў Смалявічах, Менск у 17 ст., склаў радавод слуцкіх князёў Алелькавічаў і інш. Аўтар гісторыі Слуцка (рукапіс захоўваецца ў архіве Ін-та гісторыі НАН Беларусі) і артыкулаў па гісторыі Беларусі, у якіх ухваляў дзейнасць правасл. царквы і царызму на Беларусі.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Собаль** Спірыдон (?—каля 1645), беларускі друкар. Нарадзіўся ў сям'і бурмістра Магілёва. У пач. 17 ст. настаўнік, потым рэктар Магілёўскай брацкай школы. З 1624 настаўнік Кіеўскай брацкай школы і Кіева-Магілянскай акадэміі. У 1628 у Кіеве адкрыў друкарню і выдаў некалькі кніг маральна-павучальнага і рэліг. зместу. Вярнуўшыся на Беларусь, у 1630 прыняў удзел у заснаванні *Куцеінскай друкарні* (у Куцеінскім манастыры пад Оршай). Там выдаў кірыліцай «Брашна духоўнае», «Малітвы паўсядзённыя», «Буквар» (1631) і «Часаслоў» (1632). С. упершыню ўжыў назву «буквар», а яго кніга па навучанні першапачатковай грамаце называлася «азбука». У адкрытай ім друкарні ў Буйнічах (пад Магілёвам) выдаў «Псалтыр» (1635), у Магілёўскай брацкай друкарні — «Буквар» (1636), «Псалтыр» (1637), «Тастамент» (1638). Падтрымліваў цесныя сувязі з рус., укр. і польскімі друкарамі. У 1637 маскоўскі друкар В.Ф.Бурцаў набыў у С. друкарскія прылады.

*Літ.*: Зернова А.С. Белорусский печатник Спиридон Соболь // Книга: Исслед. и материалы. М., 1965. Сб. 10; Мацюк О.Я. Новые документы о типографе Спиридоне Соболе // Федоровские чтения, 1973. М., 1976; Исаевич Я.Д. Преемники первопечатника. М., 1981; Голен-



БУКВАРЪ
Сирѣчь,
НАЧАЛО УЧЕНІЯ
Дѣтемъ начинающимъ чтенію
извыкати.
въ Кутеинѣ
Изобразися.
въ Типографіи
СПИРИДОНА
СОБОЛЯ.
Року, ахла.

С.**Собаль**. «Буквар». Куцейна. 1631.

ч е н к о Г.Я. Новые материалы по истории культурных связей Белоруссии с Украиной и Россией в конце XVI—первой половине XVII в. // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиогр. Мн., 1983; Б о т в и н н и к М.Б. Откуда есть пошел букварь. Мн., 1983.

*Марат Батвіннік.*

**СОЙМ**, с е й м, саслоўна-прадстаўнічы орган у ВКЛ у 15—1-й пал. 16 ст. і Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 16—18 ст. Генезіс С. мае карані ў перыядзе вечавых сходаў і звязаны з эвалюцыяй саслоўнай сістэмы ВКЛ у 14—16 ст., якая прывяла да ўтварэння структур саслоўна-прадстаўнічай дэмакратыі. На месцы агульназемскіх сходаў узніклі звычаі збірання сходаў і з'ездаў, якія рэпрэзентавалі прывілеяваныя саслоўі. У аснове шляхецкіх з'ездаў ляжала паняцце аб роўнасці ўсёй шляхты, бо князёў, паноў і іншае рыцарства аб'ядноўвала права ўласнасці на зямлю на рыцарскім праве. Ператварэнне з'ездаў ваеннаслужылых людзей у прадстаўнічы орган шляхецкага саслоўя адбылося ў выніку працяглага гіст. працэсу фарміравання правоў і прывілеяў шляхты, пры гэтым пастановы С. адначасова вызначалі межы ўлады манарха. У выніку *феадальнай вайны 1432—39* і абрання на прастол Казіміра IV Ягелончыка ў юнацкім узросце ў ВКЛ умацаваліся пазіцыі заможнага баярства. У часы панавання Казіміра і Аляксандра, калі адбываліся шматлікія дзярж. нарады, канчаткова афармілася *Рада Вялікага княства Літоўскага* (паны-рада). Яе пасяджэнні ў поўным складзе часта называліся С. Першапачаткова толькі ад вял. князя (гаспадара) залежала, будзе ён абмяркоўваць нейкае пытанне ў коле найбліжэйшых дарадцаў ці звернецца да шырэйшага кола асоб, скліканых спецыяльна або прыбылых на з'езд па ўласным жаданні. Дакладны час ператварэння нарад манарха з саноўнікамі ў пасяджэнні вальнага агунадзярж. С. застаецца спрэчным. Як вальныя С. ( у лацінскіх крыніцах «conventio generalis» або «diaeta») вызначаюць: Віленскі С. 1401, на якім вырашалася пытанне пра унію з Польшчай (М.К.Любаўскі); Віцебскі з'езд 1433, на якім князі, паны, рыцарства і мяшчане звярнуліся да рымскага папы са скаргамі на вял. кн. Жыгімонта Кейстутовіча (Л.Корчак); Віленскі з'езд у студз. 1446, які займаўся пытаннем магчымага абрання Казіміра на польскі трон, і з'езд 1452, на якім абмяркоўвалася праблема захавання ў складзе дзяржавы Валыні (О.Галецкі); Віленскі С. 1492, скліканы для абрання вял. князя (М.А.Максімейка). У крыніцах выразы «С.», «рада» «conventio generalis» вельмі часта выступаюць як сінонімы. Даследчыкі вызначаюць момант узнікнення С. як парламента на аснове розных крытэрыяў: з'яўленне на пасяджэннях выбарных або прызначаных прадстаўнікоў ад усяго «палітычнага народу» (прывілеяваных саслоўяў) як дарадцаў, перыядычнасць, рэгулярнасць пасяджэнняў. С.Русоцкі абгрунтавана акрэслівае С. як з'езд для нарады гаспадара не толькі з панамі-радай, але і з прадстаўнікамі ўсіх станаў, у першую чаргу шляхецкіх мас, прычым не мае значэння, падзяляўся ці не С. на палаты, былі ўдзельнікі ў ім прызначаны ці абраны. Усе яны павінны былі быць не толькі сведкамі ці прасіцелямі, а менавіта дарадцамі, нават калі іх голас быў не такім істотным, як голас паноў-рады. З узнікненнем праблем, вырашэнне якіх у новых гіст. умовах патрабавала ад гаспадара адабрэння прадстаўнікоў рыцарства, вял. князь пачаў склікаць агульнадзярж. з'езд-С. Паводле меркавання Любаўскага, *прывілей 1447* Казіміра акрэсліў ўмовы, калі гаспадар быў павінен склікаць вальны С. для збору сродкаў на абарону дзяржавы. Максімейка выказаў гіпотэзу, што ўзнікненне агульнадзярж. С. ў канцы 15 ст. стала вынікам «потребы военной». Прысутнічалі прадстаўнікі баярства і на С., на якіх выбіраліся вял. князі (1492, 1529). Баяры-шляхта стала заклікаліся на С. з 1-й чвэрці 16 ст. Першапачаткова сістэмы прадстаўніцтва не існавала і, як правіла, на С. запрашалася ўся шляхта. У 1511 Жыгімонт І Стары ўпершыню загадаў намеснікам і дзяржаўцам пагранічных валасцей склікаць шляхту па паветах і прапанаваў выбіраць па 2 прадстаўнікі ад павета для ўдзелу ў С. Паступова гэта практыка ўзмацнялася, аднак шляхце да рэформ 1560-х г. не забаранялася прымаць удзел у сходах С. і пагалоўна. Часцей за ўсё прадстаўнікамі павятовай шляхты на С. былі павятовыя ўраднікі, у першую чаргу харужыя. Такім чынам, вальны С. ВКЛ паўстаў пры допуску на нарады велікакняжацкай рады шляхецкіх дэлегатаў з зямель ВКЛ. Манарх прымаў рашэнні і пра скліканне С., і пра яго склад. Толькі ва ўмовах неабходнасці



**Сойм**. Дрэварыт з кнігі Я.Гербурта «Каронныя статуты і прывілеі». Кракаў. 1570.

абрання вял. князя, у часы яго малалецтва, пры складаных адносінах з Польшчай ці інш. суседзямі паны-рада бралі ініцыятыву склікання вальнага С., прызначалі час і месца яго правядзення, рыхтавалі праект ухвал. Кампетэнцыя вальнага С. не была дакладна вызначана. Маглі вырашацца любыя пытанні, што прапаноўваліся гаспадаром або радай. Але былі справы, якія вырашаліся амаль выключна на вальных С.: выбранне вял. князя, устанаўленне новых павіннасцей і падаткаў (у т.л. на вядзенне вайны), пытанні аб пачатку вайны і заключэнні мірных пагадненняў з суседнімі дзяржавамі і уніі з Польшчай. На С. вял. князь выдаваў найб. важныя заканадаўчыя акты і разглядаў значныя судовыя справы. Прадстаўнікі ад зямель і паветаў маглі падаваць просьбы і скаргі, адказы на якія даваў гаспадар, параіўшыся з панамі-радай. Найчасцей С. збіраліся ў Вільні, а таксама ў Гародні, Навагародку, Берасці, Менску, Бельску. Яны праводзіліся як у закрытых памяшканнях (замках, гаспадарскіх дварах), так і на плошчах гарадоў, спец. пляцоўках. Кіраваў пасяджэннямі *маршалак* земскі. Ён жа абвяшчаў прынятыя рашэнні і адказы гаспадара на просьбы. Збіраліся і С. асобных зямель ВКЛ: Полацкай, Віцебскай і інш., на якіх была прадстаўлена не толькі шляхта, але і інш. станы грамадства.

У сярэдзіне 16 ст. ўзмацніўся рух шляхты за пашырэнне сваіх паліт. правоў. Свае патрабаванні яна аформіла на палявым (абозным) С. пад Віцебскам у 1562, які паклаў пачатак хуткім істотным рэформам паліт. і прававога ладу ВКЛ. Былі прыняты *Віленскі прывілей 1563*, *Бельскі прывілей 1564*, у 1565—66 праведзена адм.-тэр. рэформа, уведзены ў дзеянне *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*. Шляхта з класа ваеннаабавязаных землеўладальнікаў ператварылася ў прывілеяваны стан (саслоўе) — «народ-шляхту», які заняў пануючае становішча ў дзяржаве. Утвараючы карпарацыі па паветах, шляхта аб'ядналася з панамі ў агульнай падсуднасці шляхецкім судам і ў агульным удзеле ў павятовых *сойміках*. Абмежаванне вярхоўнай улады манарха, якое раней належала толькі панам-радзе, паводле Статута 1566 перайшло да вальнага


Элекцыйны **сойм** 1697 на полі Воля пад Варшавай.

2-палатнага С., на якім з рашаючым голасам сталі ўдзельнічаць прадстаўнікі павятовай шляхты. Парадак работы С. ў Статуце 1566 не рэгламентаваўся. У склад С. ўваходзілі: усе паны-рада (біскупы, ваяводы, кашталяны, маршалкі земскі і дворны, гетман найвышэйшы, падскарбі земскі і інш. цэнтральныя земскія і дворныя ўраднікі), асобныя князі і паны па персанальных запрашэннях і прадстаўнікі павятовай шляхты (па 2 *паслы* ад павета, якія выбіраліся на павятовых сойміках), але толькі тыя асобы, якія карысталіся суверэннымі правамі на сваіх землях пад сюзерэнам — вял. князем. На С. запрашаліся ўсе князі Алелькавічы (Слуцкія), Вішнявецкія, Гедройцы, Дзярэчынскія, Друцкія, Друцкія-Саколінскія, Збаражскія, Курцэвічы, Лукомскія, Свірскія, Масальскія, Радзівілы, Ружынскія, Сангушкі, Чартарыйскія, Чацвярцінскія, усе паны Валовічы, Глябовічы, Гарнастаі, Давойны, Завішы, Іллінічы, Кішкі, Нарбуты, Осцікі, Пацы, Салагубы, Сапегі, Тышкевічы, Храптовічы, Шэметы. С. ВКЛ насіў арыстакратычны характар, дзе дамінавалі буйныя землеўласнікі. Баярства, якое не атрымала шляхецкіх правоў, духавенства, мяшчанства як асобныя станы не мелі свайго прадстаўніцтва на С. Толькі ў 1568 мяшчане Вільні атрымалі права пасылаць на С. 2 або 3 бурмістраў, якія маглі выказвацца толькі тады, калі на С. зойдзе размова пра сталіцу. У часы пасяджэння С. падзяляўся на 2 палаты: кола паноў-рады і рыцарскае, або шляхецкае кола. Кожнае кола абгаворвала справы асобна, затым, як і ў польскім С., пастановы абедзвюх палат прыводзіліся да згоды.

Пасля заключэння *Люблінскай уніі 1569* паміж Польшчай і ВКЛ у склад супольнага вальнага С. *Рэчы Паспалітай* трапілі не ўсе тыя, хто меў права на ўдзел у С. ВКЛ. Па-за *Сенатам* (вышэйшай палатай С.) апынуліся гаспадарскія маршалкі, слуцкі князь і інш., а ў *Пасольскую Ізбу* ( ніжэйшая палата С.) не трапілі дворныя ўраднікі, князі і паны, якія раней запрашаліся персанальна. Пасольская Ізба супольнага С. фарміравалася выключна з соймавых паслоў, што выбіраліся на павятовых сойміках і атрымлівалі наказы-інструкцыі, якімі былі павінны кіравацца на С. Колькасць паслоў ад ваяводстваў і зямель Польшчы рэгулявалася звычаёвым правам. Больш простай была сістэма прадстаўніцтва ад ВКЛ, дзе кожны павет або ваяводства, якое не падзялялася на паветы, дэлегавала ў склад Пасольскай Ізбы па 2 паслы. Выключэнне ў 18 ст. складала Жамойць, якая з 1764 замест 2 дэлегавала 3, а з 1766 — 6 паслоў. Адразу пасля заключэння Люблінскай уніі ў склад Пасольскай Ізбы ўваходзіла 170 паслоў, з якіх 48 прадстаўлялі ВКЛ. Колькасць паслоў ад ВКЛ павялічвалася шляхам стварэння новых адм.-тэр.

адзінак і, адпаведна, соймікавых акруг. Гараджане былі пазбаўлены права ўдзельнічаць ў пасяджэннях С. Выключэнне складалі *аблегаты* (прадстаўнікі) Кракава, Вільні, Магілёва, Гданьска, Львова, Камянца-Падольскага і Любліна, якія маглі прысутнічаць на пасяджэннях, але без права голасу. Да выключнай кампетэнцыі вальнага С. Рэчы Паспалітай належала: выданне заканадаўчых актаў, увядзенне падаткаў, скліканне *паспалітага рушэння*, *набілітацыя*, выпрацоўка агульнага кірунку знешняй палітыкі, зацвярджэнне мірных дагавораў і перамір'яў, кантроль за дзейнасцю караля і цэнтр. ураднікаў дзяржаў Рэчы Паспалітай. Значную ролю ва ўмацаванні пазіцый С. адыгралі міжкаралеўі пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572—73) і пасля ад'езду Генрыка Валезы (1573—75), калі была канчаткова выпрацавана працэдура правядзення канвакацыйных С. Канвакацыйны С. вызначаў месца і час выбараў караля, выпрацоўваў умовы, якія ставіліся кандыдату; элекцыйны выбіраў караля; на каранацыйным кароль прысягаў выконваць умовы, паводле якіх адбылося яго выбранне. Скликаліся таксама т.зв. пацыфікацыйныя С. (адбывалася замірэнне пасля ўнутраных войнаў паміж шляхецкімі групоўкамі), канфедэрацыйныя С. (абвяшчалі сябе *канфедэрацыяй* — саюзам шляхты, дзе рашэнні прымаліся большасцю галасоў). На Варшаўскім канвакацыйным С. 1573 ухвалены прынцып прамога ўсеагульнага галасавання для шляхты пры элекцыі (абранні на трон) караля, а на Варшаўскім элекцыйным С. 1573 заключана дзярж. пагадненне — т.зв. *Генрыкавы артыкулы*. Генрык Валезы абавязаўся кожныя 2 гады склікаць 6-тыднёвы ардынарны (звычайны) С. Пры неабходнасці маглі склікацца экстраардынарныя (надзвычайныя) 2-тыднёвыя С. Каралю было пакінута права заканадаўчай ініцыятывы і санкцыянавання пастаноў С., акрамя таго, ён мог уплываць на заканадаўства і шляхам мадэравання (канчатковага рэдагавання) законаў перад іх публікацыяй. Соймавыя *канстытуцыі* (пакеты пастаноў) абвяшчаліся ад імя караля з нагадваннем, што яны выдадзены са згоды С. Самастойным заканадаўцам кароль


DYARYUSZ
SEYMU ORDYNARYINEGO
POD ZWIĄZKIEM KONFEDERACYI GENERALNEY
OBOYGA NARODOW
W WARSZAWIE ROZPOCZĘTEGO
ROKU PANSKIEGO
TOM I CZĘSC I.
W WARSZAWIE

Дыярыуш **сойма** 1788. Тытульны ліст.

заставаўся ў адносінах да каралеўскіх гарадоў, яўрэяў, сялян дамеяльных маёнткаў і інш.

*Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*, вызначаючы кампетэнцыю С., амаль не лічыўся з пастановамі Люблінскай уніі і не паказвае на тое, што С. стаў агульным для ВКЛ і Польшчы. У адносінах да С. Статут ужывае словы «сойм» ці «сьем», рэдка «сейм», час ад часу з дабаўленнем слоў «великий» і «вальный», значна радзей «спольный»; ніколі не называе яго каронным, як гэта рабіў акт Люблінскай уніі (за выключэннем тэксту акта *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*, унесенага ў арт. 3, раздзела 3). Паводле Статута вальныя С. і перадсоймавыя павятовыя соймікі склікаюцца вял. князем ВКЛ для патрэб гэтай дзяржавы і па дамове з панамі-радай. Пра ўдзел у гэтым сенатараў Польшчы нічога не гаворыцца, няма ўпамінання пра патрэбы Польшчы і пра тое, што месцам С. павінна быць Варшава. Тлумачыцца гэта тым, што складальнікі Статута 1588 не прызналі, што Люблінская унія канчаткова і назаўсёды вызначыла лёс ВКЛ у яго федэрацыі з Польшчай. Аднак Статут павялічыў з 4 да 6 тыдняў тэрмін, які аддзяляў збор павятовых перадсоймавых соймікаў ад склікання вальнага С., вызначаў функцыянаванне перадсоймавага з'езда (*сойміка галоўнага*) паноў-рады і земскіх паслоў усяго ВКЛ перад іх ад'ездам на вальны С., што было выклікана існаваннем супольнага С. з палякамі.

Пасля Люблінскай уніі большая частка ардынарных і экстраардынарных, усе канвакацыйныя і элекцыйныя С. Рэчы Паспалітай на падставе канстытуцыі Люблінскага С. 1569 адбываліся ў Варшаве. У 1595 і 1603 звычайныя С. скліканы ў Кракаве, тут жа адбываліся ўсе каранацыйныя С. (за выключэннем каранацыйнага С. 1764 у Варшаве). У 1576 звычайны і ў 1626 надзвычайны С. скліканы ў Торуні, а ў 1703 надзвычайны С. адбыўся ў Любліне, 1-м супольным вальным С., які адбыўся на тэр. ВКЛ, быў экстраардынарны С. 1653 у Берасці. Барацьба ВКЛ за раўнапраўе прывяла да прыняцця на пацыфікацыйным С. 1673 пастановы пра тое, што кожны 3-і чарговы С. Рэчы Паспалітай будзе адбывацца ў ВКЛ, у Гародні. Не заўсёды, аднак, гэта выконвалася. У часы Станіслава Аўгуста Панятоўскага С. ў Гародні збіраліся радзей, чым таго патрабавала канстытуцыя 1673. Усяго тут адбылося 11 С.: 1678—79, 1688, 1692—93, 1718, 1726, 1729 (надзвычайны), 1730 (надзвычайны), 1744, 1753, 1784, 1793 (надзвычайны). Акрамя таго, у 1576 адбыўся з'езд у Янджэеве, які меў функцыі С., а ў 1577 замест супольнага вальнага С. Стафан Баторый склікаў толькі гал. соймікі. У ВКЛ дзейнічаў і *галоўны з'езд Вялікага княства Літоўскага*, які генетычна ўзыходзіў да С. ВКЛ і мог вырашаць пытанні, што знаходзіліся ў кампетэнцыі супольнага вальнага С.

Праца С., калі ён адбываўся ў Варшаве, звычайна пачыналася з урачыстага набажэнства ў касцёле св. Яна. Потым паслы збіраліся ў Каралеўскім замку, дзе, як правіла, на працягу 1-га дня пасяджэнняў большасцю галасоў выбіралі маршалка Пасольскай Ізбы (у 17 ст. выбары маглі зацягвацца да 19 дзён). Дзейнічаў прынцып, у адпаведнасці з якім маршалак выбіраўся па чарзе з 3 правінцый Рэчы Паспалітай — Вял. Польшчы, Малой Польшчы і ВКЛ. Пры наяўнасці праблемы прызнання пасольскіх мандатаў адбываліся пасольскія ругі (праверка законнасці выбараў на С. і пацвярджэнне ман-

датаў), пасля чаго паслы і маршалак урачыстымі прамовамі віталі караля. Свой адказ кароль звычайна перадаваў праз канцлера. Пасля гэтага маршалак выклікаў паслоў для пацалунка каралеўскай рукі. Па сканчэнні ўрачыстасцей на асобныя пасяджэнні Сената і Пасольскай Ізбы выносіліся пытанні, якія павінны былі быць разгледжаны на С. 3 сярэдзіны 16 ст. соймавыя паслы выступалі і галасавалі індывідуальна. Да канца 17 ст. ўстанавіўся звычай: па кожным пытанні выступалі па 2 прадстаўнікі ад Вял. Польшчы і Малой Польшчы і 1 ад ВКЛ. У соймавых камісіях літвіны звычайна складалі 1/3. Мэтай пасяджэнняў у Пасольскай Ізбе было дасягнуць паразумення — кансэнсусу па пытаннях, якія абмяркоўваліся (каб не было тых, хто рашуча выступаў «супраць», выкарыстоўваў права *ліберум вета*). Праекты законаў з Пасольскай Ізбы передаваліся ў Сенат, які мог уносіць папраўкі, заўвагі, але мог і адхіліць законапраект, што прыводзіла да завяршэння С. без прыняцця канстытуцыі. На С. 1615 упершыню праект соймавай канстытуцыі быў прадстаўлены Сенатам для ўхвалення ў Пасольскую Ізбу. Каб законапраект стаў законам, патрабавалася яшчэ санкцыя караля, але на практыцы ён амаль заўсёды падзяляў меркаванне большасці сенатараў. Некаторыя рашэнні па спрэчных пытаннях пакідаліся «да браці» — на канчатковы разгляд павятовага сойміка, паслы якога не былі цалкам згодны з прынятай ухвалай. Заканчваўся С. развітаннямі.

Соймавыя пастановы — канстытуцыі, праекты якіх запісваў маршалак, не заўсёды паспявалі адрэдагаваць за час працы С. Існавала практыка дапрацоўкі канстытуцый у дзярж. канцылярыі. У 1588 прынята ўхвала пра стварэнне на С. канстытуцыйнай дэпутацыі на чале з соймавым маршалкам, мэтай якой было рэдагаванне канстытуцыі. У 1633 прынята рашэнне, што праект канстытуцыі павінен быць адрэдагаваны за 5 дзён да заканчэння С., пасля чаго на сумесным пасяджэнні Сената і Пасольскай Ізбы зачытваўся яе канчатковы варыянт. На практыцы гэта не заўсёды вытрымлівалася. Пасля падпісання канстытуцыі пасламі і сенатарамі маршалак быў абавязаны ўнесці яе ў гродскі суд горада, дзе ад-



**Сойм**. Акваформт Д.Хадавецкага. 1789.

бываўся С., для ўпісання ў актавыя кнігі, толькі пасля гэтага канстытуцыя набывала юрыдычную моц. Потым канстытуцыя магла друкавацца. Канстытуцыі першых С. пасля Люблінскай уніі афармляліся як пастановы адзінай Рэчы Паспалітай і аднаго народа. Аднак тэндэнцыя лічыць ВКЛ правінцыяй Польшчы трымалася нядоўга. Ужо ў актах элекцыйнага С. 1573 абедзве дзяржавы паўстаюць як роўныя. З 1582 некаторыя ўхвалы прымаюцца для ВКЛ асобна ад каронных, С. 1590 вылучаў пастановы адносна ВКЛ, але яшчэ называў іх толькі справамі ВКЛ, а пастановы С. 1607 ужо падзелены на канстытуцыі каронную і ВКЛ. Большая частка канстытуцый 17—18 ст. падзелена падобным чынам. Аднак і ў каронных канстытуцыях падаюцца пастановы адносна ВКЛ, але з агаворкамі, што яны прымаюцца і ВКЛ. Адзінства змешаных канстытуцый, аб'яднаных адным загалоўкам, чыста знешняе — у іх адны пастановы датычацца Польшчы, другія — ВКЛ. На С. 1673 былі вырашаны некаторыя працэсуальныя пытанні. Прапановы на С. адносна спраў польскіх павінен быў уносіць канцлер каронны, а па справах ВКЛ — вял. канцлер літоўскі. Калі С. адбываўся ў Гародні, то адказы на вітанні Пасольскай Ізбы даваў канцлер ВКЛ, ён жа прымаў паведамленне пра абранне маршалка і даваў адказ пры развітаннях Пасольскай Ізбы. У Гародні скарб ВКЛ браў на сябе ўтрыманне замежных паслоў.

З пач. 17 ст. плённая дзейнасць С. пачала абмяжоўвацца супярэчнасцю паміж прынцыпам аднагалосся і абавязкам паслоў дакладна прытрымлівацца інструкцый павятовых соймікаў. Паколькі на працягу 6 тыдняў не заўсёды было магчыма прыняць узгодненыя пастановы, С. пралангоўваўся, на што патрабавалася згода ўсіх паслоў. Упершыню ў 1652 упіцкі пасол У.Сіцынскі не дазволіў пралангацыі С. і рашэнні не былі прыняты. У 1669 упершыню С. быў сарваны да скончэння тэрміну соймавай сесіі шляхам ужывання ліберум вета. У 1688 С. быў сарваны яшчэ да абрання маршалка Пасольскай Ізбы. Часам выкарыстоўвалася больш мяккая форма ліберум вета, калі пасол абвяшчаў «сіста актавітатэм» («прыпыняю дзейнасць»), што выклікала лімітацыю С. — перапынак пасяджэнняў для ўзгаднення спрэчных пазіцый. Следствам безвыніковасці С. было тое, што ніводнае з прынятых на ім рашэнняў не мела юрыдычнай моцы, бо яны разглядаліся як адна канстытуцыя. На працягу 1573—1763 былі распушчаны, не прыняўшы рашэнняў, або сарваны 53 С. (каля 1/3 ад іх агульнай колькасці). Крызіс С. ў 2-й пал. 17 ст. прывёў да ажыўлення ідэі непасрэднай шляхецкай дэмакратыі (без выбару паслоў). Узорам было паспалітае рушэнне, якое магло ператварацца ў абозны С. (напр., пад Віцебскам у 1562, у Менску ў 1564). У 2-й пал. 17 ст. за такім С. замацавалася назва *коннага сойма*. Конным С. лічаць канфедэрацыйны С. 1673. У час абрання на трон Аўгуста III (1733) прынята палажэнне, што кожны 3-і С. будзе конным, але гэта не выконвалася.

У 1764—66 праведзена рэформа дзярж. ладу. Зацверджаны парадак пасяджэння С. і пастаноўлена, што некаторыя менш важныя рашэнні («экaнам. матэрыі») прымаюцца большасцю галасоў, для зацвярджэння падаткаў патрабавалася аднагалоссе. *Канстытуцыя 3 мая 1791*, законы «Соймы» і «Соймавыя суды» ад 13.5.1791 вызначалі С. як 2-палатны орган: Пасольская Ізба складалася з 204 дэпутатаў, выбраных на сойміках, і 24 «упаўнаважа-



ных гарадоў», выбраных на акруговых сходах, з правам дарадчага голасу толькі па справах гарадоў, прамысловасці і гандлю. Кароль склікаў С., меў права заканадаўчай ініцыятывы, але страціў права зацвярджаць законы (яны абвяшчаліся ад яго імя *Стражай Правоў*). С. мог склікацца і без караля, калі той не склікаў яго ў вызначаны тэрмін, а таксама па ініцыятыве маршалка Пасольскай Ізбы, калі ўзнікала неабходнасць у надзвычайнай сесіі, а кароль адмаўляўся яе склікаць. Роля Сената была абмежавана, ён меў толькі права адкладальнага вета. Па менш важных пытаннях галасы паслоў і сенатараў падлічваліся разам, але засядалі яны паасобку. Калі справа тычылася кантролю над урадам, палаты галасавалі на сумесным пасяджэнні. Соймавыя паслы лічыліся «прадстаўнікамі ўсяго народу» і не былі звязаны інструкцыямі соймікаў. Дэпутаты выбіраліся на 2 гады і на гэты тэрмін захоўвалі свае паўнамоцтвы. Звычайныя сесіі павінны былі праводзіцца ў пачатку кадэнцыі ў Варшаве, а кожны 3-і раз — у Гародні, сесія цягнулася 70 дзён з магчымасцю пралангацыі да 100 дзён. Надзвычайная сесія склікалася ў выніку канфлікту паміж каралём і Стражай Правоў ці паміж Стражай і цэнтр. камісіямі. С. фактычна атрымаў кантроль за дзейнасцю ўрада і нагляд за ўсімі дзярж. органамі. Падрабязна быў рэгламентаваны парадак пасяджэнняў, уводзіўся прынцып большасці галасоў для адных пытанняў і кваліфікаванай (2/3 і 3/4) для іншых. Аднак сістэма ўлады, устаноўленая ў 1791, праіснавала нядоўга. Гарадзенскі С. 1793 скасаваў Канстытуцыю 3 мая 1791 і прыняў новыя *Кардынальныя правы*, якія зноў перадавалі ўладу ў рукі магнацка-шляхецкага С. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 42, 44.

*Літ. агульная*: Любавский М.К. Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строением и внешнею жизнью государства. М., 1900; Довнар-Запольский М.В. Спорные вопросы в истории Литовско-русского сейма // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1901. № 10; Жукович П.М. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией. Вып. 1—6. СПб., 1901—12; Максимейко Н.А. Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902; Леонтович Ф.И. Веча, сеймы и сеймики в Великом княжестве Литовском // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1910. № 2—3; Halecki O. Sejm obozowy szlachty litewskiej pod Witebskiem 1562 r. i jego petycja o unię z Polską // Przegląd Historyczny. 1914. T. 18; Яго ж. O początkach parlamentaryzmu litewskiego // Sprawozdania z czynności i posiedzeń Akademii Umiejętności w Krakowie. 1915. T. 20. № 8; Konopczyński W. Liberum veto: Studium porownawczo-historyczne. Kraków, 1918; Яго ж. Chronologia sejmów polskich, 1493—1793. Kraków, 1948; Дружчыц В. Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі // Працы БДУ. 1925. № 6—7; Sobociński W. Pakta Konwenta: Studium z historii prawa polskiego. Kraków, 1939; Olszewski H. Sejm Rzeczypospolitej epoki oligarchii, 1652—1763: Prawo—praktyka—teoria—programy. Poznań, 1966; Яго ж. Funkcjonowanie sejmu w dawnej Rzeczypospolitej // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1983. Z. 1; Czapliński W. Z problematyki sejmu polskiego w pierwszej połowie XVII wieku // Kwartalnik Historyczny. 1970. Z. 1; Łaszewski R. Sejm Polski w latach 1764—1793: Studium historyczno-prawne. Warszawa; Poznań, 1973; Bardach J. Formes des assembleés représentatives du Grand Duché de Lituaniae après l'union de Lublin (1569) // XIII[e] Congres International des Sciences Historiques, Moscou, 1970. Moscou; Varsovie, 1975. T. 52; Яго ж. Sejm dawnej Rzeczypospolitej jako najwyższy organ reprezentacyjny // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1983. Z. 1; Uchwalenie konstytucji na sejmach w XVI—XVIII wieku. Wrocław, 1979; Grodziski S. Sejm dawnej Rzeczypospolitej jako najwyższy organ ustawodawczy: Konstytucje sejmowe — pojęcie i próba systematyki // Там жа; Historia sejmu polskiego. T. 1. Warszawa, 1984; Seredyka J. Parlamentarzyści II połowy panowania Zygmunta III Wazy. Opole, 1989; Wisner H. Najjaśniejsza Rzeczpospolita: Szkice z dziejów Polski szlacheckiej XVI—XVII wieku. 2 wyd. Warszawa, 1989; Акіншэвіч Л. Парлямэнт беларускай зямлі // 3 гісторыяй на «Вы». Мн., 1994. Вып. 3; Кулесєвич В. Сейм «Золотого віку». Warszawa, 1995; Opaliński E. Kultura polityczna szlachty polskiej w latach 1587—1652: System parlamentarny w społeczeństwie obywatelskim. Warszawa, 1995; Kriegseisen W. Sejm Rzeczypospolitej szlacheckiej (do 1763 roku): Geneza i kryzys władzy ustawodawczej. Warszawa, 1995; Parlamentaryzm w Polsce we współczesnej historiografii. Warszawa, 1995; Społeczeństwo obywatelskie i jego reprezentacja (1493—1993). Warszawa, 1995; Parlament, prawo, ludzie: Studia ofiarowane profesorowi Juliuszowi Bardachowi w sześćdziesięciolecie pracy twórczej. Warszawa, 1996; Dzieje sejmu polskiego. 2 wyd. Warszawa, 1997; Голенченко Г. «Шляхетская демократия» в Великом княжестве Литовском XVI—XVIII вв. // Белоруссия и Россия. М., 1998; Korczak L. Litewska Rada wielkoksiążęca w XV w. Kraków, 1998; Parlamentaryzm i prawodawstwo przez wieki: Prace dedykowane Prof. Stanisławowi Płazie w siedemdziesiątą rocznicę urodzin. Kraków, 1999; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002; Lileyko J. Sejm polski: Tradycja—ikonografia—sztuka. Warszawa, 2003.

*Літ. па асобных соймах*.: Падалінскі У. Шляхта ВКЛ і вальны сойм Рэчы Паспалітай 1570 года // Бел. гіст. часопіс. 2004. № 6; Pirożyński J. Sejm warszawski roku 1570. Kraków, 1972; Filipczak-Kocur A. Senatorowie i posłowie na sejmie «pacyfikacyjnym» w 1589 roku // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1982. Z. 2; Lepszy K. Rzeczpospolita Polska w dobie sejmu inkwizycyjnego (1589—1592). Kraków, 1939; Rzońca J. Sejmy z lat 1597 i 1598. Cz. 1—2. Warszawa, Wrocław; Opole, 1989—90; Janiszewska-Mincer B. Rzeczpospolita Polska w latach 1600—1603: Narastanie konfliktu między Zygmuntem III Wazą a stanami. Bydgoszcz, 1984; Strzelecki A. Sejm z r. 1605. Kraków, 1921; Sobieski W. Pamiętny sejm [1606]. Warszawa; Lublin; Łódź, 1913; Byliński J. Sejm z roku 1611. Wrocław, 1970; Яго ж. Dwa sejmy z roku 1613. Wrocław, 1984; Ochmann S. Sejmy z lat 1615—1616. Wrocław, 1970; Seredyka J. Sejm warszawski z 1618 roku. Opole, 1988; Rzońca J. Ostatni sejm przed Cecorą (w 1619 r.) // Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. 1983. Z. 20; Яго ж. Sejmiki przed sejmem zwyczajnym 1619 r. // Zeszyty Naukowe WSP w Opolu. Ser. A. Historia. 1977. T. 14; Pietrzak J. Po Cecorze i podczas wojny chocimskiej: Sejmy z lat 1620 i 1621. Wrocław, 1983; Яго ж. W przygaszonym blasku wiktorii chocimskiej: Sejm w 1623 r. Wrocław, 1987; Dorobisz J. Sejm nadzwyczajny z 1624 roku. Opole, 1994; Kwak J. Sejm warszawski 1626 roku. Opole, 1985; Seredyka J. Sejm w Toruniu z 1626 roku. Wrocław etc., 1966; Яго ж. Sejm zawiedzionych nadziej (1627). Opole, 1981; Filipczak-Kocur A. Sejm zwyczajny z roku 1629. Warszawa; Wrocław, 1979; Kaczorowski W. Sejmy konwokacyjny i elekcyjny w okresie bezkrólewia 1632 r. Opole, 1986; Szczerbik Z. Sejm koronacyjny Władysława IV w 1633 r. Kluczbork, 2001; Kołodziej R. Pierwszy sejm z 1637 roku. Toruń, 2004; Tomaszek A. Sejm 1638 r. w obronie szlacheckiej równości // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1987. Z. 2; Trawicka Z. Sejm z roku 1639 // Studia Historyczne. 1972. Z. 4; Ochmann S. Sejm koronacyjny Jana Kazimierza w 1649 r. Wrocław, 1985; Częścik Ł. Sejm warszawski w 1649/1650

roku. Wrocław etc., 1978; Czapliński W. Dwa sejmy w roku 1652. Wrocław, 1955; Ciesielski T. Sejm brzeski 1653 r.: Studium z dziejów Rzeczypospolitej w latach 1652—1653. Toruń, 2004; Ochmann S. Sejmy z lat 1661—1662. Wrocław, 1977; Kłaczewski W. W przededniu wojny domowej w Polsce: Walka sejmowa lat 1664—1665. Lublin, 1984; Matwijów K. Ostatnie sejmy przed abdykacja Jana Kazimierza w 1667 i 1668. Wrocław, 1992; Kłaczewski W. Abdykacja Jana Kazimierza: Społeczeństwo szlacheckie wobec kryzisu politycznego lat 1667—1668. Lublin, 1993; Przyboś K. Posłowie na sejm koronacyjny króla Michała w 1669 roku // Studia Historyczne. 1998. Z. 3; Przyboś K. Sejm nadzwyczajny w Warszawie 5 marca—19 kwietnia 1670 roku // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. T. 1262. Prace Historyczne. Z. 130. Kraków, 2003; Przyboś K. Posłowie na sejm zwyczajny w Warszawie 9 IX—1 XI 1670 // Studia Historyczne. 2001. Z. 4; Matwijowski K. Pierwsze sejmy z czasów Jana III Sobieskiego. Wrocław, 1976; Яго ж. Sejm grodzieński 1678—1679. Wrocław, 1985; Казьмерчык А. Гродзенскі сейм 1692—1693 гг. і яго вынікі // Бел. гіст. часопіс. 1998. № 2; Staszewski J. Elekcja 1697 roku // Universitatis Nicolai Copernici. Historia. 1993. T. 28; Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny w 1699 r. Toruń, 1991; Diariusz Sejmu Walnego Warszawskiego 1701—1702. Warszawa, 1962; Poraziński J. Sejm lubelski w 1703 roku i jego miejsce w konfliktach wewnętrznych na początku XVIII wieku. Toruń, 1988; Diarjusz Walnej Rady Warszawskiej z roku 1710. Wilno, 1928; Winter A.D. Der Sejm zu Grodno 1718. Wien, 1944; Filipczak W. Sejm 1778 roku. Warszawa, 2000.

***Андрэй Радаман.***

**Соймы ВКЛ 1440—1568 і Рэчы Паспалітай 1569—1793**

Чэрв. 1440, Вільня. Вял. князем літоўскім абраны Казімір IV Ягелончык.

Студз. 1446, Вільня.

Вер. 1446, Берасце.

Жн. 1448, Навагародак.

Пач. 1451, Вільня.

Канец 1451, Вільня.

Май 1453, Вільня.

1452, Вільня (?).

Крас. 1454, Берасце.

Снеж. 1456, Вільня.

Крас. 1460, Берасце.

Крас. 1461, Вільня (?).

1463, Вільня (?).

Пач. 1466, Вільня.

Лют. 1468, Вільня. Зацверджаны *Судзебнік 1468.*

Вер. 1469, Гародня.

Сак. 1473, Вільня.

1475, Вільня.

Сак. 1478, Берасце.

Ліп. 1492, Вільня. Вял. князем літоўскім абраны Аляксандр.

Ліст. 1493, Вільня.

Ліп. 1499, Вільня.

Жн. 1501, Гародня.

Лют.—крас. 1505, Берасце.

Кастр. 1506, Вільня. Вял. князем літоўскім абраны Жыгімонт І Стары.

Снеж. 1506—студз. 1507, Мельнік.

Лют. 1507. Вільня.

Май—жн. 1511, Берасце.

Студз. 1512, Вільня.

Лют.—сак. 1514, Вільня.

11.11.1518—3.1.1519, Берасце.

Лют.—сак. 1522, Гародня.

Чэрв.—снеж. 1522, Вільня.

Пач. 1524, Вільня.

Канец 1524, Вільня.

Крас. 1528—лют. 1529, Вільня.

Кастр. 1529, Вільня. Вял. князем літоўскім абраны Жыгімонт II Аўгуст (пры жыцці бацькі, Жыгімонта І Старога).

15 лют.—сак. 1534, Вільня.

Крас. 1536, Вільня.

Сак. 1538, Вільня.

Чэрв.—ліп. 1540, Вільня.

Вер. 1542, Берасце.

Чэрв.—кастр. 1544, Берасце. Жыгімонт І Стары перадаў уладу ў ВКЛ сыну Жыгімонту II Аўгусту.

Студз.—сак. 1547, Вільня.

29 вер.—снеж. 1551, Вільня.

11 ліст.—снеж. 1552, Вільня.

11.11.1554—студз. 1555, Вільня.

Жн.—кастр. 1559, Вільня.

Лют. 1561, Вільня.

12 мая—чэрв. 1563, Вільня. Жыгімонт II Аўгуст выдаў *Віленскі прывілей 1563.*

Чэрв.—ліп. 1564, Бельск. Жыгімонт II Аўгуст выдаў *Бельскі прывілей.* Зацверджаны *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566.*

Ліст.—снеж. 1564, Менск.

Кастр. 1565, Трабы.

18.11.1565—студз. 1566, Вільня.

28 крас.—жн. 1566, Берасце.

1.12.1566—6.1.1567, Гародня.

Кастр.—ліст. 1567, Лебедзева.

25.4—12.7.1568, Гародня.

10.1—12.8.1569, Люблін. Маршалак С.Чарнкоўскі. Заключана *Люблінская унія 1569* паміж ВКЛ і Польшчай, утворана *Рэч Паспалітая.*

3.5—10.7.1570, Варшава. Маршалак С.Шафранец, кашталян бецкі.

12.3—28.5.1572, Варшава. Маршалак М.Гжыбоўскі, падкаморы варшаўскі.

6—28.1.1573, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак невядомы.

5.4—20.5.1573, Варшава. Элекцыйны. Маршалак Я.Фірлей, вял. маршалак каронны. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Генрык Валезы.

22.2—2.4.1574, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак В.Агрыпа.

30.8—18.9.1574, Варшава. Канвакацыйны. Маршалкі С.Шафранец і Р.Пшыемскі, падчашы калішскі.

7.11—15.12.1575, Варшава. Элекцыйны. Маршалак М.Сяніцкі, падкаморы хелмскі. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Стафан Баторы.

18—28.1.1576, Янджэеў. Шляхецкі з'езд, які меў значэнне сойма.

31.3—29.5.1576, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак А.Фірлей, стараста сандамірскі.

19.10—29.11.1576, Торунь. Звычайны. Маршалак невядомы.

20 студз.—сак. 1578, Варшава. Звычайны. Маршалак Л.Б.Свірскі, маршалак гаспадарскі ВКЛ. Зацверджаны *паправы статутовыя 1578.*

23.11.1579—4.1. 1580, Варшава. Звычайны. Маршалак невядомы.

22.1—8.3.1581, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Пшыемскі, стараста камінскі.

4.10—25.11.1582, Варшава. Звычайны. Маршалак Л.Сапега, вял. пісар ВКЛ.

15.1—28.2.1585, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Пенкаслаўскі, стараста марыенбургскі.

2.2—9.3.1587, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак С.Уханскі.

30.6—19.8.1587, Варшава. Элекцыйны. Маршалкі К.Дэмбінскі і П.Ажахоўскі. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Жыгімонт III Ваза.

10.12.1587—20.1.1588, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак Я.Гаеўскі, суддзя і падстараста пазнанскі.

6.3—23.4.1589, Варшава. Звычайны (пацыфікацыйны). Маршалак Дз.Халецкі, падскарбі надворны ВКЛ.

8.3—21.4.1590, Варшава. Звычайны. Маршалак Г.Гастомскі, кашталян наклаўскі.



2.12.1590—15.1.1591, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Іздбінскі-Русецкі.

7.9—19.10.1592. Варшава. Звычайны (інквізіцыйны). Маршалак Я.Пац, цівун віленскі.

4.5—15.6.1593, Варшава. Звычайны. Маршалак М.Даніловіч.

6.2—22.3.1595, Кракаў. Звычайны. Маршалак С.Сасін-Карсніцкі, суддзя земскі серадзьскі.

26.3—13.5.1596, Варшава. Звычайны. Маршалак П.Мышкоўскі, староста асвенцімскі.

10.2—25.3.1597, Варшава. Звычайны. Маршалак Мышкоўскі.

8.3—13.4.1598, Варшава. Звычайны. Маршалак Ф.Гамалінскі, падкаморы серадзьскі.

9.2—21.3.1600, Варшава. Звычайны. Маршалак кн. Я.Шуйскі, падкаморы берасцейскі.

7.2—13.3.1601, Варшава, Звычайны. Маршалак З.Асалінскі.

4.2—5.3.1603, Кракаў. Звычайны. Маршалак Ф.Крыскі.

20.1—3.3.1605, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Белазор, падкаморы упіцкі.

7.3—18.4.1606, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Рышкоўскі, суддзя земскі лукаўскі.

9.5—1.6.1607, Варшава. Звычайны. Маршалак М.Мялінскі.

15.1—26.2.1609, Варшава. Звычайны. Маршалак К.Весялоўскі.

26.9—7.11.1611, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Свашоўскі, пісар земскі львоўскі.

19.2—2.4.1613, Варшава. Звычайны. Маршалак М.Пшэрэмбскі, староста пётркаўскі.

3—29.12.1613, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Гасеўскі, рэферэндар ВКЛ.

12.2—26.3.1615, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Свентаслаўскі, рэферэндар каронны.

26.4—7.6.1616, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Шчавінскі, староста лянчыцкі.

13 лют.—сак. 1618, Варшава. Звычайны. Маршалак К.Весялоўскі, стольнік ВКЛ.

22.1—5.3.1619, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Свентаслаўскі, рэферэндар каронны.

3.11—11.12.1620, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Шчавінскі.

23.8—14.9.1621, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Друцкі-Саколінскі, вял. пісар ВКЛ.

24.1—7.3.1623, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Сабескі.

6 лют.—сак. 1624, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.Лавіцкі, староста берасцейскі.

7 студз.—сак. 1625, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Друцкі-Саколінскі.

27.1—10.3.1626, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Сабескі.

19.11—3.12.1626, Торунь. Надзвычайны. Маршалак М.Жагоцкі, суддзя земскі ўсхоўскі.

12.10—27.11.1627, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Халецкі, маршалак лідскі.

27.6—18.7.1628, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.Сабескі.

9.1—21.2.1629, Варшава. Звычайны. Маршалак М.Манецкі, падкаморы пазнанскі.

13—28.11.1629, Варшава. Надзвычайны. Маршалак С.Пац, рэферэндар ВКЛ.

29 студз.—сак. 1631, Варшава. Звычайны. Маршалак Е.Асалінскі, падстолі каронны.

11.3—3.4.1632, Варшава. Надзвычайны. Маршалак М.Жагоцкі.

22.6—20.7.1632, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак К.Радзівіл, польны гетман ВКЛ.

27.9—17.11.1632, Варшава. Элекцыйны. Маршалак Я.Сабескі, крайчы каронны. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Уладзіслаў IV.

1.2—17.3.1633, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак М.Астрарог, падстолі каронны.

19.7—7.8.1634, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Г.М.Трызна, стольнік ВКЛ.

31.1—17.3.1635, Варшава. Звычайны. Маршалак Е.Асалінскі, падскарбі надворны каронны.

22.11—11.12.1635, Варшава. Надзвычайны. Маршалак М.Лапацкі, падкаморы закрочымскі.

20.1—4.3.1637, Варшава. Звычайны. Маршалак К.Л.Сапега, вял. пісар ВКЛ.

3—19.6.1637, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.С.Ябланоўскі.

10.3—1.5.1638, Варшава. Звычайны. Маршалак Л.Апалінскі.

5.10—16.11.1639, Варшава. Звычайны. Маршалак У.Кірдзей, пісар земскі гарадзенскі. Сарваны.

19.4—1.6.1640, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.С.Ябланоўскі, чашнік каронны.

20.8—4.10.1641, Варшава. Звычайны. Маршалак Б.Ляшчынскі.

11—27.2.1642, Варшава. Надзвычайны. Маршалак К.Завіша, вял. пісар ВКЛ, староста менскі.

12.2—29.3.1643, Варшава. Звычайны. Маршалак Е.Любамірскі, староста сонцкі.

13.2—27.3.1645, Варшава. Звычайны. Маршалак Г.Радзяёўскі, староста ломжынскі.

25.10—10. 12.1646, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.М.Станкевіч, цівун і пісар жамойцкі.

2—27.5.1647, Варшава. Надзвычайны. Маршалак С.Сарбеўскі, староста грабовецкі і карытніцкі.

16.7—1.8.1648, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак Б.Ляшчынскі, генеральны староста велікапольскі.

6.10—23.11.1648, Варшава. Элекцыйны. Маршалак П.К.Абуховіч, войскі мазырскі. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Ян II Казімір Ваза.

19.1—14.2.1649, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак Ф.Дубраўскі, падкаморы перамышльскі.

22.11.1649—12.1.1650, Варшава. Звычайны. Маршалак Б.Ляшчынскі, генеральны староста велікапольскі.

5—24.12.1650, Варшава. Надзвычайны. Маршалак В.Гасеўскі, стольнік ВКЛ.

26.1—14.3.1652, Варшава. Звычайны. Маршалак А.М.Фрэдра. Сарваны.

23.7—18.8.1652, Варшава. Надзвычайны. Маршалак А.Сельскі, староста стэнжыцкі.

24.3—18.4.1653, Берасце. Надзвычайны. Маршалак К.Пац, харужы ВКЛ.

11.2—28.3.1654, Варшава. Звычайны. Маршалак Ф.Дубраўскі, падкаморы перамышльскі. Сарваны.

9.6—21.7.1654, Варшава. Надзвычайны. Маршалак К.Гжымултоўскі, падкаморы калішскі.

19.5—20.6.1655, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.К.Умястоўскі, суддзя земскі берасцейскі.

10.7—30.8.1658, Варшава. Звычайны. Маршалак У.Любавецкі, суддзя земскі кракаўскі.

22.3—30.5.1659, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.Гнінскі, падкаморы паморскі.

2.5—16.7.1661, Варшава. Звычайны. Маршалак М.К.Радзівіл, падчашы ВКЛ.

20.2—1.5.1662, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Веляпольскі, староста бецкі.

26.11.1664—7.1.1665, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Гнінскі. Сарваны.

12—28.3.1665, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.А.Храпавіцкі, падкаморы смаленскі. Сарваны.

17.3—5.5.1666, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Пянёнжак, староста асвенцімскі. Сарваны.

9.11—27.12.1666, Варшава. Звычайны. Маршалак М.Аборскі, староста ліўскі. Сарваны.

7.3—19.5.1667, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Катовіч, вял. пісар ВКЛ.

24.1—8.3.1668, Варшава. Надзвычайны. Маршалак К.Чартарыйскі, падкаморы кракаўскі. Сарваны.

27.8—16.9.1668, Варшава. Надзвычайны. Маршалак С.Сарноўскі, падкаморы лянчыцкі. Кароль Ян II Казімір Ваза адрокся ад трона.

5.11—6.12.1668, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак Я.А.Храпавіцкі.

2.5—6.7.1669, Варшава. Элекцыйны. Маршалак Ф.Патоцкі, падстолі каронны. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Міхал Вішнявецкі.

1.10—12.11.1669, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак А.Крыцкі, падкаморы калішскі. Сарваны.

5.3—19.4.1670, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Я.К.Кірдзей, маршалак гарадзенскі. Сарваны.

9.9—1.11.1670, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Любамірскі, падстолі каронны.

26.1—14.3.1672, Варшава. Звычайны. Маршалак М.Аборскі. Сарваны.

1.6—8.7.1672, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Г.Друцкі-Саколінскі, вял. пісар ВКЛ. Сарваны.

4.1—13.4.1673, Варшава. Звычайны (пацыфікацыйны). Маршалак С.Чарнецкі, пісар польны каронны. Пачаўся як з'езд Голамбскай канфедэрацыі, 12.3.1673 аб'яўлены пацыфікацыйным звычайным соймам.

15.1—22.2.1674, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак Ф.Бялінскі, мечнік каронны.

20.4—3.6.1674, Варшава. Элекцыйны. Маршалак П.Б.Сапега, падскарбі надворны ВКЛ. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Ян III Сабескі.

4.2—4.4.1676, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак М.Г.Сяняўскі, харужы каронны.

14.1—26.4.1677, Варшава. Надзвычайны Маршалак У.М.Скарашэўскі, харужы пазнанскі.

15.12.1678—3.4.1679, Гародня. Звычайны. Маршалак Ф.Сапега, канюшы ВКЛ.

14.1—26.5.1681, Варшава. Звычайны. Маршалак Г.Любамірскі, харужы каронны. Сарваны.

27.1—18.3.1683, Варшава. Звычайны. Маршалак Р.Ляшчынскі, харужы каронны.

15.2—30.5.1685, Варшава. Звычайны. Маршалак А.К.Гелгуд, вял. пісар ВКЛ.

27.1—5.3.1688, Гародня. Звычайны. Старшынстваваў Гелгуд. Сарваны да абрання маршалка.

17.12.1688—2.4.1689, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Шчука, рэферэндар каронны. Сарваны.

16.1—7.5.1690, Варшава. Звычайны. Маршалак Т.Дзялынскі, староста братыянскі.

31.12.1692—11.2.1693, Гародня. Звычайны. Маршалак А.К.Крышпін, польны пісар ВКЛ. Сарваны.

22.12.1693, Варшава. Надзвычайны. Старшынстваваў Крышпін. Раз'ехаўся з-за хваробы караля.

12.1—23.3.1695, Варшава. Звычайны. Старшынстваваў Крышпін. Сарваны да абрання маршалка.

29.8—2.10.1696, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак С.Гумецкі, стольнік падольскі. Часткова сарваны.

15.5—28.6.1697, Варшава. Элекцыйны. Маршалак К.Л.Бялінскі, падкаморы каронны. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Аўгуст II. Абвешчана ўраўнаванне ў правах шляхты ВКЛ з польскай шляхтай. Забаронена ўжыванне бел. мовы ў судах ВКЛ.

17.9—1.10.1697, Кракаў. Каранацыйны. Маршалак К.С.Завіша, староста менскі.

16—28.4.1698, Варшава. Пацыфікацыйны. Старшынстваваў Завіша. Раз'ехаўся з-за малалікасці.

16.6—30.7.1699, Варшава. Звычайны (пацыфікацыйны). Маршалак С.Шчука, рэферэндар каронны.

30.5—18.6.1701, Варшава. Звычайны. Раз'ехаўся да пачатку агульных пасяджэнняў.

22.12.1701—8.2.1702, Варшава. Звычайны. Маршалак Я.Шэмбек, рэферэндар каронны. Сарваны.

19.6—11.7.1703, Люблін. Надзвычайны. Маршалак М.Вішнявецкі, польны гетман ВКЛ.

4.2—16.4.1710, Варшава. Вальная рада *Сандамірскай канфедэрацыі,* якая мела значэнне сойма. Маршалак С.Э.Дэнгаф, польны гетман ВКЛ.

5—19.4.1712, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Дэнгаф.

31.12.1712—21.2.1713, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Дэнгаф.

1.2.1717, Варшава. Маршалак С.Ледухоўскі, падкаморы крамянецкі. Т.зв. «Нямы» сойм, зацвердзіў пагадненне паміж каралём Аўгустам II, *Віленскай канфедэрацыяй 1716* і *Тарнагродскай канфедэрацыяй.*

3.10—14.11.1718, Гародня. Звычайны. Маршалак К.С.Завіша, староста менскі.

30.12.1719—22.2.1720, Варшава. Звычайны. Маршалак Завіша. Сарваны.

30.9—11.11.1720, Варшава. Звычайны. Маршалак Завіша. Сарваны.

5.10—16.11.1722, Варшава. Звычайны. Маршалак Ф.Асалінскі, падскарбі надворны каронны. Сарваны.

2.10—13.11.1724, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Патоцкі, рэферэндар каронны.

28.9—9.11.1726, Гародня. Звычайны. Маршалак Патоцкі.

22—29.8.1729, Гародня. Надзвычайны. Сарваны да абрання маршалка.

2—16.10.1730, Гародня. Надзвычайны. Старшынстваваў Т.Любамірскі, староста спішскі. Сарваны да абрання маршалка.

18.9—2.10.1732, Варшава. Надзвычайны. Старшынстваваў Е.Ажароўскі, абозны каронны. Сарваны да абрання маршалка.

26.1—2.2.1733, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Ажароўскі. Перарваны з-за смерці Аўгуста II.

27.4—23.5.1733, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак М.Масальскі, староста гарадзенскі.

25.8—28.9.1733, Варшава. Элекцыйны. Маршалак Ф.Радзеўскі, падкаморы пазнанскі. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Станіслаў

Ляшчынскі. Нязгодная з гэтым апазіцыя абрала на сваім з'ездзе каралём польскім і вял. князем літоўскім Аўгуста III.

27.9—8.11.1735, Варшава. Звычайны (пацыфікацыйны). Маршалак А.Панінскі. Сарваны.

25.6—9.7.1736, Варшава. Надзвычайны (пацыфікацыйны). Маршалак В.Жавускі, польны пісар каронны.

6.10—17.11.1738, Варшава. Звычайны. Маршалак К.Рудзенскі, староста крушвіцкі.

3.10—13.11.1740, Варшава. Звычайны. Маршалак К.Карвоўскі, стольнік бельскі.

5.10—19.11.1744, Гародня. Звычайны. Маршалак Т.Агінскі, абозны ВКЛ.

3.10—14.11.1746, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Любамірскі, староста казімежскі.

30.9—9.11.1748, Варшава. Звычайны. Маршалак В.Сяменскі, рэферэндар каронны.

4—18.8.1750, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Сяменскі. Сарваны.

2—26.10.1752, Гародня. Звычайны. Маршалак Ю.Масальскі, староста гарадзенскі. Сарваны.

30.9—31.10.1754, Варшава. Звычайны. Маршалак Масальскі. Сарваны.

4.10.1756, Варшава. Звычайны. Не пачаў працу з-за таго, што Аўгуст III быў абложаны ў Саксоніі.

2—11.10.1758, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Малахоўскі, крайчы каронны. Сарваны.

6—13.10.1760, Варшава. Звычайны. Маршалак Малахоўскі. Сарваны.

27.4—2.5.1761, Варшава. Надзвычайны. Маршалак Малахоўскі. Сарваны.

4—7.10.1762, Варшава. Звычайны. Маршалак Малахоўскі. Сарваны.

7.5—23.6.1764, Варшава. Канвакацыйны. Маршалак А.Чартарыйскі, генеральны староста падольскі.

27.8—8.9.1764, Варшава. Элекцыйны. Маршалак Ю.Сасноўскі, вял. пісар ВКЛ. Каралём польскім і вял. князем літоўскім абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

3—20.12.1764, Варшава. Каранацыйны. Маршалак Я.Малахоўскі, староста пётркаўскі.

6.10—29.11.1766, Варшава. Звычайны. Маршалак Ц.Чапліц.

5.10.1767—5.3.1768, Варшава. Надзвычайны. Маршалак К.С.Радзівіл, ваявода віленскі. Праходзіў пад вяршэнствам *Радамскай канфедэрацыі*. Зацвердзіў акт *Кардынальных правоў*, «Вечны» дагавор з Расіяй.

19.4.1773—11.4.1775, Варшава. Надзвычайны. Маршалак А.Панінскі, кухмістр каронны, і М.Г.Радзівіл, мечнік ВКЛ. Гл. *Сойм 1773—75*.

26.8—31.10.1776, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Макраноўскі і А.Агінскі.

5.10—14.11.1778, Варшава. Звычайны. Маршалак Л.Тышкевіч, вял. пісар ВКЛ.

2.10—11.11.1780, Варшава. Звычайны. Маршалак А.Малахоўскі, вял. сакратар каронны.

30.9—9.11.1782, Варшава. Звычайны. Маршалак К.Красінскі, вял. абозны каронны.

4.10—13.11.1784, Гародня. Звычайны. Маршалак К.Хамінскі, староста пінскі.

2.10—13.11.1786, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Гадомскі, падкаморы сахачаўскі.

6.10.1788—29.5.1792, Варшава. Звычайны. Маршалак С.Малахоўскі, рэферэндар каронны, і К.Н.Сапега, генерал артылерыі ВКЛ. Гл. *Чатырохгадовы сойм 1788—92*.

17.6—23.11.1793, Гародня. Надзвычайны. Маршалак С.Бялінскі. Гл. *Гарадзенскі сойм 1793*.

***Валерый Пазднякоў.***

**СОЙМ 1773—75**, Трохгадовы сойм 1773—75. Адбыўся ў Варшаве 19.4.1773—11.4.1775, узаконіў *першы падзел Рэчы Паспалітай* (1772) і вызначыў лад дзяржавы на яе ацалелай частцы. Скліканы радай Сената 8.2.1773, на сойміках шляхты 22—28.3.1773 абраны 144 паслы (ад ВКЛ у С. ўдзельнічалі 8 сенатараў і 25 паслоў). Кіравалі С. маршалкі: кухмістр каронны А.Панінскі і мечнік ВКЛ М.Г.*Радзівіл*. Асудзіў *Барскую канфедэрацыю* і стварыў соймавы суд для пакарання яе ўдзельнікаў. На першых сесіях С. некалькі паслоў на чале з Т.*Рэйтанам* ад Навагародскага ваяв. і С.*Багушэвічам* ад Менскага ваяв. стварылі актыўную апазіцыю, сцвярджаючы незаконнасць падзелу Рэчы Паспалітай. Аднак С. абвясціў сябе канфедэрацыяй і большасцю галасоў 14.5.1773 выбраў дэлегацыю (7 міністраў, 27 сенатараў, 61 пасол на чале з біскупам куяўскім А.Астроўскім), якая 21 жн. падпісала дагавор з Аўстрыяй, 1 вер. — з Расіяй, 18 вер. — з Прусіяй, паводле якіх Рэч Паспалітая «добраахвотна» ўступіла анексіраваныя землі і навечна адраклася ад усіх прэтэнзій на іх. 28.9.1773 С. аднагалосна ўхваліў падзел краіны і быў адтэрмінаваны да 22.1.1774 для распрацоўкі новага дзярж. ладу Рэчы Паспалітай пад чужаземнай апекай. С. вызначыў умовы знаходжання войск Расіі ў Рэчы Паспалітай, 15.3.1775 зацвердзіў новую мяжу з Рас. імперыяй, стварыў сумесную камісію для разгляду справы перададзеных уніятам і католікам правасл. святынь. 14.10.1773 створана *Адукацыйная камісія*. С. устанавіў штат войска ў 30 тыс. чал., замяніў панцырныя і гусарскія харугвы брыгадамі нац. кавалерыі. Разглядаў пытанне пра скасаванне прыгоннага права і перавод сялян з паншчыны на грашовы чынш, 25.9.1775 перавёў духавенства на дзярж. ўтрыманне, адмяніў унутраныя пошліны, увёў аднолькавае мыта, пошліну на гандаль тытунём, новае вэксальнае права, пачаў праверку правоў трымальнікаў каралеўшчын (старастаў) з іх люстрацыяй, 10.4.1775 увёў «Уставу падатку ВКЛ», якая прадугледжвала люстрацыю двароў, іх насельнікаў, корчмаў і шынкоў. 28.3.1775 С. стварыў *Пастаянную Раду*, 29.2.1775 мадыфікаваў 4 пункты *Кардынальных правоў*, дазволіў 4 дысідэнтам (некатолікам, па аднаму ад правінцыі) удзельнічаць ў працы соймаў. С. канчаткова аформіў сістэму пратэктарату Расіі над унутраным ладам і знешнімі сувязямі Рэчы Паспалітай, што было скасавана *Чатырохгадовым соймам 1788—92*. Іл. гл. ў т. 1, с. 30.

*Літ.*: Wegner L. Tadeusz Rejtan na sejmie warszawskim z roku 1773. Poznań, 1873; Konopczyński W. Geneza i ustanowienie Rady Nieustającej. Kraków, 1917; Michalski J. Sprawa chłopska na sejmie 1773—1775 // Przegląd Historyczny. 1954. № 1; Яго ж. Rejtan i dylematy polaków w dobie pierwszego rozbioru // Kwartalnik Historyczny. 1986. № 4; Chojecki R. Patriotyczna opozycja na sejmie 1773 r. // Там жа. 1972. № 3. Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II (1772—1796 гг.). Мн., 1998.

***Яўген Анішчанка.***

**соймавы суд**, вышэйшы суд у Рэчы Паспалітай, які ствараўся з членаў *сойма* і дзейнічаў у час яго працы. Паходзіў ад падобнага суда ў Польскім каралеўстве, што дзейнічаў у складзе караля і сенатараў. Паўнамоцтвы С.с. Рэчы Паспалітай акрэслены канстытуцыяй 1578 пасля ўтварэння ў Польшчы Кароннага трыбунала — вышэйшай судовай інстанцыі па большасці крымінальных і цывільных спраў. Да кампетэнцыі С.с. аднесены справы па злачынствах, якія цягнулі смяротнае пакаранне, выгнанне за мяжу, канфіскацыю маёмасці. Сярод іх — абраза караля, замах на дзярж. ўладу, здрада, бунт, дрэннае кіраванне дзярж. скарбам падскарбіем і ўпаўнаважанымі дэпутатамі, гвалт на сойме, фальшываманецтва, забойства, параненне, самавольнае прысваенне тытула і герба, замах на афіцыйных службовых асоб, крадзеж з касцёлаў і інш. С.с. выступаў як вышэйшая інстанцыя для Кароннага трыбунала, а з часу ўтварэння ў 1581 — і для *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага*. Позва на С.с. выдавалася ад імя караля. У склад суда ўваходзіў кароль, сенатары і 9 дэпутатаў з *Пасольскай Ізбы*, якія прызначаліся маршалкам сойма (калі разглядалася справа пра абразу караля, ён у пасяджэннях не ўдзельнічаў як зацікаўлены бок). Старшынстваваў на судзе каронны маршалак. Канстытуцыяй 1655 у склад С.с. ўведзены 24 дэпутаты з Пасольскай Ізбы (суд разглядаў справу смаленскага ваяводы П.К.Абуховіча, які здаў рас. войску г. Смаленск). Канстытуцыя 1670 прадугледжвала працу ў С.с. 20 дэпутатаў з Пасольскай Ізбы. Справаводства С.с. вялі *рэферэндары* каронныя і літоўскія і *пісары* земскія з таго месца, дзе адбываўся сойм. Пісары вялі *рэестры*, рэферэндары дакладвалі справы, падпісвалі выракі (прыгаворы), сачылі за чарговасцю разгдяду спраў. Вырак С.с. лічыўся канчатковым і не падлягаў апеляцыі. Канстытуцыя 1589 вызначыла для С.с. 1 дзень на тыдзень (аўторак) у час працы сойма для разгляду спраў з ВКЛ. З-за непрацяглага тэрміну працы соймаў шмат нясконачаных спраў накіроўвалася ў трыбуналы. З часу іх стварэння шляхта дамагалася ад караля забароны клікаць яе на С.с. па справах, падлеглых трыбуналам. Канстытуцыя 1588 вызначыла, што С.с. разглядае толькі справы па абразе караля і дзярж. здрадзе. У С.с. накіроўваліся рэмісы (спрэчныя нявырашаныя справы) з трыбуналаў і задворнага асэсарскага суда. С.с. перастаў быць для іх апеляцыйным судом, не мог змяняць або адмяняць вырак інш. суда, у т.л. трыбуналаў. На С.с. ў 1689 было прынята рашэнне аб спаленні як бязбожніка К.*Лышчынскага*. З 2-й пал. 17 ст. ў сувязі з ростам крызісу шляхецкага парламентарызму С.с. трапіў у заняпад і ў большасці выпадкаў не мог выносіць прысуды. У 18 ст. ён функцыянаваў ужо не на кожным сойме. Статутамі 1775 і 1776 суд быў рэфармаваны як сталы. Складаўся з караля, сенатараў, міністраў (акрамя тых, хто ўваходзіў у *Пастаянную Раду*) і 54 (пасля 30) дэпутатаў з Пасольскай Ізбы. У год адбываліся 3 кадэнцыі С.с. па 6 тыдняў, у т.л. 1 кадэнцыя прысвячалася разгляду спраў з ВКЛ (пачыналася 1 чэрв.). Да кампетэнцыі С.с. былі аднесены абраза караля, здрада, адмова ад прадастаўлення правасуддзя, подкуп суддзяў, ілжэсведчанне, «уціск вольнасці абывацельскай». У С.с. маглі быць выкліканы міністры і члены Пастаяннай Рады за службовыя злачынствы. Чатырохгадовы сойм 1788—92 вызначыў, што ў С.с. уваходзяць 6 сенатараў, па аднаму (або ад Польшчы, або ад ВКЛ) з маршалкаў, гетманаў, канцлераў, падскарбіяў, 24 выбарныя дэпутаты з Пасольскай Ізбы; старшынстваваў кароль. 17.5.1791 прынята ўхвала аб С.с. ў складзе 36 чал. (12 сенатараў і 24 паслы), якія выбіраліся на 2 гады. Былі нанава вызначаны дзярж. злачынствы, за якія караў суд: падбухторванне войска і насельніцтва да бунту, увядзенне ў Рэч Паспалітую замежнага войска, змова, зрыў сеймікаў і соймаў, здача часткі тэрыторыі Рэчы Паспалітай інш. дзяржаве, атрыманне грошай ад замежных урадаў, выдача дзярж. тайнаў, подкуп сенатараў, міністраў, соймавых паслоў, суддзяў, продаж людзей за мяжу, набор рэкрутаў у замежнае войска, утрыманне прыватнага войска і інш. Гарадзенскі сойм 1793 прыняў новы статут С.с., аднак у апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай гэты суд не дзейнічаў (у 1775—93 вырашаў толькі 4 справы).

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Центральные судебные учреждения в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Журн. Мин-ва юстиции. 1910. № 2; Szczęska Z. Sąd sejmowy w Polsce od końca XVI do końca XVIII wieku // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1968. Z. 1; Zarzycki W. Temida Sejmowa: Z dziejów sądu sejmowego w Polsce przedrozbiorowej. Warszawa, 2000.

***Валерый Пазднякоў.***

**соймік**, сеймік, у ВКЛ у 16—18 ст. сход шляхты павета (зямлі, ваяводства), дзейнасць якога рэгламентавалася нормамі права; форма самарэалізацыі шляхецкай супольнасці павета і дзяржаўна-прававы інстытут, дзякуючы якому шляхецкая супольнасць была здольная прымаць рашэнні. Генетычна ўзыходзіць да веча і з'ездаў баяр-шляхты пэўнай зямлі. У 1511 Жыгімонт I Стары ўпершыню заклікаў намеснікаў памежных зямель склікаць шляхту па паветах і прапанаваў выбраць па 2 прадстаўнікі ад павета для ўдзелу ў *сойме*. Паступова гэта практыка ўкаранілася, але шляхце не забаранялася прымаць удзел у сходах сойма і



**Соймік** у касцёле. Мастак Я.П.Норбліна.



**Соймік** у касцёле. Мастак Ю.Валь. 1776.

пагалоўна. На вайсковым з'ездзе ў Менску ў ліст. 1564 адбыліся сходы шляхты некаторых паветаў, на якіх былі абраны кандыдаты на земскія судовыя пасады, а на Віленскім сойме 1565—66 шляхта ўсёй дзяржавы звярнулася да Жыгімонта II Аўгуста з прапановай увесці ў ВКЛ на ўзор Польскага каралеўства павятовыя С. *Віленскі прывілей 1565* устанавіў павятовыя перадсоймавыя С. ў ВКЛ як курыю для абрання паслоў на сойм (па 2 паслы ад павета). Статут ВКЛ 1566 вызначыў час перадсоймавых С. — не пазней як за 4 тыдні да сойма, паводле Статута ВКЛ 1588 — 6 тыдняў. Для апавяшчэння павятовай шляхты пра пытанні, якія выносіліся на разгляд сойма, вял. князь пасылаў у паветы легатаў (гаспадарскіх паслоў) з соймавымі лістамі, якія павінны былі ўручацца *гродскаму суду* не пазней чым за 2 тыдні да пачатку С. *Стараста* або яго намеснік павінен быў пасляць з гэтымі лістамі *возных* да ўсіх тых, каму дасылаліся раней соймавыя лісты з гаспадарскай канцылярыі. Астатняя шляхта апавяшчалася пра сойм па цэрквах, касцёлах, на таргах. Як правіла, шляхта збіралася на С. ў павятовых цэнтрах. Працягласць С. вызначалася рэцэсам (пастановай) Гарадзенскага сойма 1567 у 3 дні, Статутам ВКЛ 1588 — да 4 дзён, соймавай канстытуцыяй 1764 — зноў 3 дні. Рашэнні на С. павінны былі прымацца аднагалосна («одностайным зданьем»). Соймавая канстытуцыя 1613 вызначыла, што выбранне паслоў на сойм і некаторыя інш. пытанні вырашаюцца простай большасцю галасоў. Паводле канстытуцый 18 ст. рашэнні прымаліся як большасцю галасоў, так і аднагалосна. Пасяджэннямі С. кіраваў найвышэйшы па пасадзе ўраднік або павятовы *маршалак*. Рэцэс Гарадзенскага сойма 1567 прадугледжваў матэрыяльную адказнасць ураднікаў за адсутнасць на С. без «причин слушных», што скасавана Статутам ВКЛ 1588. Шляхціцы, якія валодалі маёнткамі ў розных паветах, маглі прысутнічаць на любым з павятовых С., дзе мелі зямельную ўласнасць. На перадсоймавым С. павятовая шляхта павінна была заслухаць легата вял. князя аб скліканні сойма і пытаннях, якія выносіліся на яго абмеркаванне, выбраць 2 паслоў і скласці для іх інструкцыю. Паводле Статута ВКЛ пасля соймаў, але не пазней як праз 4 тыдні, павінны былі збірацца пасоймавыя, або рэляцыйныя С. Па прыездзе з сойма паслы папярэджвалі ваяводу або павятовага судовага старасту пра сваё вяртанне, тыя або іх намеснікі апавяшчалі павятовую шляхту пра час склікання С. На гэтых С. паслы паведамлялі пра сваю дзейнасць на сойме і апавяшчалі соймавыя ўхвалы. З канца 16 ст. рэляцыйныя С. прымалі ўхвалы па рэалізацыі соймавых канстытуцый, а таксама па справах, якія на соймах перадаваліся на вырашэнне «панов-брати» (пра згоду на падатковыя соймавыя ўхвалы, пра выбранне павятовых *паборцаў* і інш.).

Акрамя С., якія фармальна скліканіся гаспадаром, былі з'езды ці сходы, што збіраліся па ўласным жаданні павятовай шляхты. Надзвычайныя шляхецкія з'езды часоў міжкаралеўя ўпершыню ў ВКЛ адбыліся ў вер. 1572 пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста. Пазней падобныя С., якім фактычна і юрыдычна належала ўлада да выбрання новага манарха, атрымалі назву каптуровых. Арганізаваныя на прынцыпах *канфедэрацыі*, яны стваралі канфедэратыўную ўладу і *каптуровы суд*. Закон і практыка прызнавалі значэнне сходаў павятовай шляхты ў час судовых *рокаў земскіх* і *рочкаў гродскіх*. Такія сходы маглі скончыцца прыняццем ухвал пра публічныя справы, часта ў форме пратэстання дзеянням улады. Соймавыя канстытуцыі 1659 і 1717 забаранілі склікаць С. без універсала манарха.

Дэпутацкія (трыбунальскія, грамнічныя) С. прадугледжваліся законам 1581 для выбрання суддзяў у склад *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага*. Яны збіраліся самастойна штогод 2 лют. на свята Маці Божай Грамнічнай. Дэпутацкі С. мог супадаць з перадсоймавым або элекцыйным, пазней з гаспадарчым С.

На элекцыйных С. шляхта выбірала электаў (кандыдатаў) на пасады *суддзі*, *падсудка* і *пісара* земскага павятовага суда (з 1564—66), *падкаморыя*, харужага (з 1588) і некаторыя інш. ўрады. Вял. князь быў абавязаны выдаць намінацыйны прывілей аднаму з кандыдатаў. Прадугледжвалася авансаванне (прасоўванне) на элекцыйных С. земскага пісара або падсудка па пасаду суддзі і земскага пісара на падсудства. Канвакацыйны сойм 1764 скасаваў урад падсудка, павялічыўшы колькасць земскіх суддзяў да 4, якіх выбіралі на С. большасцю галасоў. Пасля працяглай барацьбы шляхта атрымала права на выбранне кандыдатаў на ўрады павятовага *харужага* і падкаморыя, што было замацавана ў Статуце ВКЛ 1588. У 17 ст. павятовая шляхта атрымала права прадстаўляць манарху электаў і на вышэйшую пасаду ў павеце — павятовага маршалка (соймавыя канстытуцыі 1631 і 1669), аднак на практыцы гэта адбывалася з канца 1680-х г. Магчыма, у 17 ст. віленскі і троцкі С. выбіралі электаў на ўрады цівуноў віленскага і троцкага. Таксама на элекцыйных С. шляхта выбірала павятовых возных (з 1565), якіх зацвярджаў ваявода і возных-*генералаў* (з 1588), якіх прызначаў на ўрад вял. князь. У асобных землях ВКЛ, у адпаведнасці з



ранейшымі прывілеямі, на С. выбіралі і сенатараў — ваявод полацкага і віцебскага, старасту жамойцкага.

У пач. 17 ст. афармiліся як асобныя віды гаспадарчы С. і з'езд попісавы. Гаспадарчы С. прымаў ухвалы (лаўда, лаўдум) па справах павета, размеркаванні падаткаў, ухваленых соймам, выбіраў падатковых паборцаў і кантраляваў іх дзейнасць, ухваляў ваяводскія падаткі, прымаў рашэнні пра выдаткі з ваяводства скарбу, ухваляў вярбоўку павятовых жаўнераў і вызначаў іх начальнікаў; з сярэдзіны 17 ст. выбіраў камісараў у Скарбовы трыбунал ВКЛ. На попісавых з'ездах адбываліся шляхецкія *попісы войска*.

С. як элемент сістэмы органаў дзярж. улады (заканадаўчай, выканаўчай і судовай) меў падвойны характар, адначасова быў парламенцкім ін-там дзяржавы і органам мясц. улады і самакіравання. Шляхта бачыла ў С. непасрэднае прадстаўніцтва сваіх інтарэсаў і імкнулася пашырыць сферу іх дзейнасці і кампетэнцыю. Арганізацыйныя формы С., спосаб іх функцыянавання, прававыя стасункі да інш. дзярж. ін-таў і розныя аспекты іх дзейнасці былі толькі часткова ўрэгуляваны нормамі пісанага права. Паступова соймікавы лад прыходзіў у занядад з-за паліт. залежнасці дробнай і нават сярэдняй шляхты ад магнатаў, што было звязана са слабасцю дзярж. апарату, асабліва з адсутнасцю значнага ўплыву цэнтр. выканаўчай улады на рэгіёны Рэчы Паспалітай. Мясц. дзярж. апаратам кіравалі магнаты, якія стаялі паміж манархам і астатняй шляхтай. Шляхта толькі дзякуючы магнатам і толькі праз іх, коштам выканання іх патрабаванняў магла дасягнуць значных дзярж. пасад і палепшыць сваё эканам. становішча. Правядзенне рэформ соймікавага ладу пачалося ў перыяд праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага [1764—95], які злучыў барацьбу за сапраўдную рэалізацыю ўладных паўнамоцтваў караля з утварэннем уласнай партыі і імкненнем пазбавіць магнатаў іх кліентэлаў. На каранацыйным сойме 1764 прынята канстытуцыя, якая дакладна вызначыла парадак правядзення соймікавых пасяджэнняў. Тады ж было прынята рашэнне, што дэпутатам, паслом ці ўраднікам мог стаць толькі шляхціц, які дасягнуў поўных 23 гадоў. На падставе выдадзенага на сойме 1768 парадку саймікавання на павятовых С. маглі з'яўляцца толькі асобы, якія нарадзіліся ў ВКЛ, дасягнулі поўных 18 гадоў і мелі нерухомасць дзедзічную (спадчынную), заставную, пажыццёвую ці на чыншавым праве, а таксама сыны і браты ўладальніка. На С. абавязкова павінны былі прысутнічаць толькі станы (саслоўі) свецкія. Чатырохгадовы сойм 1788—92 прыняў 24.2.1791 закон «Соймікі», пазней аднесены Канстытуцыяй 3.5.1791 да канстытуцыйных законаў. У адпаведнасці з ім голас на С. мелі толькі шляхціцы — уласнікі нерухомасці з 18 гадоў, а таксама заставныя і пажыццёвыя ўладальнікі, калі яны плацілі падаткі вызначанай вышыні (больш за 100 злотых). Немаёмныя шляхціцы былі пазбаўлены права ўдзелу ў С., бо яны «не маглі мець самастойнага голасу, а служылі толькі ў якасці інструменту панскіх інтрыг». Закон вызначыў, што С. адбываюцца штогод 14 лют. для выбараў дэпутатаў Трыбунала, раз у 2 гады 18 ліп. — для выбараў паслоў на сойм і камісараў у *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя*. На дэпутацкіх С. павінны былі разглядацца і гасп. справы. Элекцыі на ўрады павінны былі адбывацца на бліжэйшым С., установленым законам. Рэляцыйныя С. маглі склікацца ў выпадку, калі заканчэнне сесіі сойма аддзяляў ад бліжэйшага С. тэрмін, большы за 2 месяцы. Пасяджэннямі С. кіравалі маршалак і асэсары, у ВКЛ дапускалася, што функцыі маршалка браў на сябе вышэйшы па пасадзе на С. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 46, 47.

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Яго ж. Пинский сеймик после отречения Яна Казимира // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1910. № 2; Леонтович Ф.И. Веча, сеймы и сеймики в Великом княжестве Литовском // Там жа. № 2—3; Zielińska Z. Mechanizm sejmikowy i klientela radziwiłłowska za Sasów // Przegląd Historyczny. 1971. Z. 3; Wisner H. Przedsejmowy sejmik nowogrodzki w latach 1607—1648 // Przegląd Historyczny. 1978. Z. 4; Яго ж. Sejmiki litewskie w czasach Zygmunta III i Władysława IV: Konwokacja wileńska oraz sejmiki przedsejmowe i relacyjne // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 1989. T. 3; Kriegseisen W. Sejmiki Rzeczypospolitej w XVII i XVIII w. Warszawa, 1991; Jučas M. Parlamentaryzm litewski w XVIII wieku // Społeczeństwo obywatelskie i jego reprezentacja (1493—1993). Warszawa, 1995; Opaliński E. Kultura polityczna szlachty polskiej w latach 1587—1652: System parlamentarny w społeczeństwie obywatelskim. Warszawa, 1995; Sobczak J. Zreformowane sejmiki litewskie 1792 r. wobec Konstytucji 3 Maja: (Sejmiki litewskie 1792 r. wobec Konstytucji 3 Maja) // Profesor Henryk Łowmiański: Życie i dzieło. Poznań, 1995; Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego (połowa XVI—koniec XVII w.) // Parlamentaryzm w Polsce we współczesnej historiografii. Warszawa, 1995; Яго ж. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego epoki stanisławowskiej (do 1778 r.): Zmiany ustroju i funkcjonowaniu // Ziemie północne Rzeczypospolitej Polsko-Litewskiej w dobie rozbiorowej 1772—1815. Warszawa; Toruń, 1996; Яго ж. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII w.: Ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000; Urwanowicz J. Wojskowe «sejmiki»: Koła w wojsku Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Białystok, 1996; Сагановіч Г. Шляхта Менскага ваяводзства і інтэрвенцыйная вайна пачатку XVII ст. // Заслаўскія чытанні, 1995 г. Заслаўе, 1997; Радаман А.А. Элекцыйныя соймікі Навагародскага павета ў II палове XVI ст. // Гісторыя Беларусі: новае ў даследаванні і выкладанні. Мн., 1999. Ч. 2; Яго ж. Шляхецкія соймікі і з'езды як структурная адзінка сістэмы ўлады ў Менскім павеце ў другой палове XVI ст. // Магдэбургскае права на Беларусі. Мн., 1999; Лойка П.А. Сфера палітычных інтарэсаў шляхты беларускіх зямель у апошняй трэці XVI— першай трэці XVII ст. // Весн. БДУ. Сер. 3. 2000. № 1.

***Андрэй Радаман.***

**соймік галоўны**, соймік генеральны, дзяржаўны з'езд сенатараў і соймавых паслоў ВКЛ у Ваўкавыску і ў Слоніме перад вальным *соймам* Рэчы Паспалітай ці пасля яго ў 2-й пал. 16— 1-й пал 17 ст. Як і *галоўны з'езд Вялікага княства Літоўскага*, С.г. генетычна ўзыходзіць да вальнага сойма ВКЛ. Пасля заключэння *Люблінскай уніі 1569*, калі Варшава была вызначана як месца правядзення супольных вальных соймаў Рэчы Паспалітай, выгаднае геаграфічнае становішча Навагародскага ваяв. на скрыжаванні шляхоў, што вялі да Варшавы з усіх павятовых цэнтраў ВКЛ, абумовіла выбар спачатку Ваўкавыска, а потым Слоніма ў якасці месца правядзення перадсоймавых С.г., а часам і агульнадзярж. з'ездаў ВКЛ (1577, 1582). Палажэнне пра С.г. ВКЛ было ўжо ў заключных дакументах

перамоў паміж прадстаўнікамі ВКЛ і пасламі Генрыка Валезы пры яго абранні на трон Рэчы Паспалітай, але канчаткова юрыдычна аформіў існаванне перадсоймавага С.г. ВКЛ у Ваўкавыску 8-ы артыкул канстытуцыі каранацыйнага сойма 1576. У Кароне (Польскім каралеўстве) С.г. здаўна склікаліся ў Малой Польшчы, Вял. Польшчы, Каралеўскай Прусіі і Мазовіі. У маі 1577 кароль Стафан Баторый змест вальнага сойма склікаў С.г. ў Кароне, якія разглядалі пытанні, што знаходзіліся выключна ў кампетэнцыі сойма. У ліп. 1577 у Ваўкавыску сабраўся дзярж. з'езд ВКЛ (у тагачасных дакументах ён фігуруе як «соймик валный» і «сойм волковыйский»), які ўхваліў падатак на абарону толькі сваёй дзяржавы і адзначыў, што скліканне манархам павятовых соймікаў і С.г. без склікання сойма парушае правы і вольнасці ВКЛ. Праз некаторы час у ВКЛ узнікла прапанова перанесці месца пасяджэнняў С.г. ў Слонім, пра што гаварылася ў адным з артыкулаў праекта выпраўлення Статута ВКЛ, які быў прыняты Віленскім гал. з'ездам у сак. 1584. Мяркуецца, што ініцыятарам пераносу быў падканцлер ВКЛ Л.І.Сапега, які ў 1586 атрымаў прывілей на трыманне Слонімскага старасты. Афіцыйна называе Слонім месцам правядзення С.г. Статут ВКЛ 1588, які дакладна рэгламентуе яго дзейнасць. На С.г. павінны былі збірацца тыя, хто меў права ўдзельнічаць у працы сойма — паны-рада (сенатары) і соймавыя паслы павятовай шляхты ў поўным іх складзе. С.г. павінен быў збірацца за 2 тыдні да вальнага сойма. На практыцы ён збіраўся і раней адзначанага тэрміну — за 3 ці 4 тыдні да сойма. Перад надзвычайным соймам С.г. ВКЛ мог быць скліканы за тыдзень да яго пачатку. Звычайна С.г. ВКЛ адбываўся прыкладна за 10 дзён перад каронным С.г. Паводле Статута ВКЛ С.г. быў неабходны, каб паслы і сенатары з'яўляліся на сойм са «згоднымі намовамі и умыслы». На С.г. яны «знесши впосродок себе инструкцыи всих земль и поветов, мають межи себе намовы спольные в милости братерской о всих потребах земских чинити, приводечи се до одного слушного зрозуменья и уваженья речей ку доброму Речи Посполитое», каб на сойме справы вырашаліся «без великого затрудненья, снадней и спешней». На С.г. узгадняліся інструкцыі павятовых соймікаў і пазіцыі соймавых паслоў усіх паветаў ВКЛ, а таксама вызначаліся мэты і задачы ўсіх прадстаўнікоў ВКЛ на агульным сойме Рэчы Паспалітай і, па магчымасці, выпрацоўваліся агульныя для ўсяго ВКЛ погляды на праблемы, якія выносіліся на разгляд сойма, агульны кірунак знешняй і ўнутранай палітыкі ВКЛ. Дзякуючы гэтаму ўмацоўвалася адзінства дзяржавы, патрэбы насельніцтва асобных мясцовасцей хутчэй вырашаліся ў цэнтр. органах дзярж. улады. Сесія С.г. паводле Статута ВКЛ магла працягвацца «водле часу и потребы», толькі б паслы паспелі прыехаць на сойм. Звычайна пасяджэнні С.г. адбываліся ў драўляным палацы ў Слонімскім замку. У пазнейшых соймавых канстытуцыях С.г. ВКЛ называецца генеральным. Ён павінен быў збірацца на падставе каралеўскіх лістоў, у якіх вызначаўся тэрмін пачатку сесіі (звычайна за 2—3 тыдні да пачатку сойма). У 2-й пал. 17 ст. статутавае палажэнне пра С.г. не выконвалася. Страцілі сваё значэнне ў сярэдзіне 17 ст. і генеральныя сойнікі Малой Польшчы і Вял. Польшчы. Даўжэй праіснавалі С.г. Мазовіі і Каралеўскай Прусіі. Патрэба ў рэгулярных перадсоймавых з'ездах знікала па меры развіцця т.зв. правінцыяльных сесій нацый (Малой Польшчы, Вял. Польшчы, ВКЛ, Каралеўскай Прусіі) на вальных соймах Рэчы Паспалітай. На гэтых сесіях сенатары і соймавыя паслы ВКЛ толькі ў сваім складзе, без прысутнасці палякаў, абмяркоўвалі праявядзенне сваіх законапраектаў.

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586): Опыт исслед. полит. и обществ. строя. Т. 1. СПб., 1901; Яго ж. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Яго ж. Iš vyriausiųjų Lietuvos suvažiavimų istorijos XVI amž., 1577 metų suvažiavimas rytų Vilkaviškyje. Kaunas, 1932; Яго ж. Литовский Статут 1588 г. Т. 1—2. Каунас, 1934—38; Kutrzeba S. Historja ustroju Polski w zarysie. T. 2. Lwów; Warszawa, 1921; Gierowski J.A. Sejmik generalny księstwa mazowieckiego na tle ustroju sejmikowego Mazowsza. Wrocław, 1948; Dygdała J. Próba reformy sejmiku generalnego Prus Królewskich w 1734 // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1985. Z. 2; Naworski Z. Sejmik generalny Prus Królewskich 1569—1772: Organizacja i funkcjonowanie na tle systemy zgromadzeń stanowych prowincji. Toruń, 1992.

***Андрэй Радаман.***

**Сокал**, замак, што існаваў у 16 ст. непадалёк ад в. Сакалішча (цяпер Расонскі р-н). Пабудаваны ў 1566 у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* паводле загаду Івана Грознага як парубежная крэпасць. Планіроўку і памеры замка вызначаў мыс пры зліцці рэк Дрыса і Нішча. Паўавальны ў плане замак (павернуты закругленай часткай да стралы мыса) з 10 вежамі, якія ўнутры былі падзелены на 2—3 ярусы, мелі баявыя




Замак **Сокал**. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.



памяшканні і амбразуры. 4 вежы чацверыковыя, завершаныя 2-схільнымі дахамі, астатнія васьмерыковыя, з высокімі шатровымі дахамі. Вежы стаялі на высокіх насыпах і злучаліся абарончымі сценамі. У сцяне, процілеглай закругленай частцы, размяшчаліся арачная брама пад 2-схільным дахам з 2 байніцамі абапал праезду. Шчыльная драўляная забудова дзядзінца займала амаль палавіну яго тэрыторыі. Цэнтрам кампазіцыі была царква на невял. плошчы, якую абкружалі прамавугольныя ў плане хаты. Вылучаліся 2 вежападобныя збудаванні: адно з іх з цыбулепадобным купалам мела рысы стылю рэнесансу. Замак адлюстраваны на гравюры, зробленай паводле малюнка С.Пахалавіцкага (1579). Разбураны ў 1579 войскамі Стафана Баторыя.

*Юрый Якімовіч.*

**Сокал** Сцяпан Фёдаравіч (н. 8.1.1943, в. Шавялі Ляхавіцкага р-на), беларускі юрыст, гісторык і філосаф. Д-р юрыд. навук (1988), праф. (1990). Скончыў БДУ (1967). З 1967 памочнік пракурора Чэрыкаўскага р-на. У 1971—74 і 1981—85 працаваў у Ін-це філасофіі і права АН Беларусі, у 1974—77 — у Мінскім радыётэхнічным ін-це, у 1977—81 інспектар Мін-ва вышэйшай адукацыі БССР; з 1985 у Гродзенскім ун-це (дэкан факультэта, заг. кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права). З 1990 рэктар Бел. недзярж. ін-та правазнаўства (з 2005 прыватная ўстанова адукацыі «БІП — ін-т правазнаўства»), з 2004 старшыня савета. У 1990—93 старшыня Саюза юрыстаў Беларусі. Даследуе развіццё сацыялагічнай, паліт. і прававой думкі Беларусі.

*Тв.*: Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI в. Мн., 1974. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI—первой половины XVII в. Мн., 1984; Кароткі агляд гісторыі палітычна-прававой думкі Беларусі. Магілёў, 1999; История юридической науки Беларуси. Мн., 2000.

**Сокса** (Soxo) Бенядзікт дэ (1586, г. Гранада, Іспанія—18.12.1658), юрыст, педагог. З 1602 чл. ордэна езуітаў, з 1611 святар. Выкладаў у іспанскіх езуіцкіх калегіумах (у т.л. ў Кордаве). У 1620 па прапанове генерала ордэна прыбыў у ВКЛ. У 1624 атрымаў у Віленскай акадэміі ступень доктара тэалогіі і выкладаў там філасофію і маральную тэалогію, адначасова да 1655 падканцлер акадэміі, у 1643—46 рэктар. У час вайны з Расіяй і Швецыяй у 1655 быў вымушаны з'ехаць у Іспанскія Нідэрланды, памёр у Антверпене. Аўтар практычнага дапаможніка і падручніка права «Claves iuris» (Вільня, 1648), даведніка па граматыцы польскай мовы для іншаземцаў «Praecepta grammaticae linguae polonicae» (Вільня, 1636).

**солід** (ад лац. solidus масіўны), 1) сярэбраная і медная манета еўрапейскіх краін у 14—19 ст. У ВКЛ у 15—16 ст. траплялі С. Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, Прускага герцагства, паморскіх княстваў. 2) Манета Рэчы Паспалітай з нізкапробнага серабра ў апошняй чвэрці 16—1-й пал. 17 ст. У 17 ст. адзін з самых пашыраных наміналаў. У манетнай сістэме на 1 грош прыходзіліся 3 С. На адным баку манеты змешчана манаграма караля, на другім — гербы Польскага каралеўства, ВКЛ, родавы герб караля і пазначэнне наміналу альбо легенда ў полі. Сярэбраны выгляд амаль медным манетам забяспечвала папярэдняе выбельванне паласы металу перад вальцоўкай з дапамогай віннага каменю. Паводле ардынацыі 1580 лігатурная маса С. Стафана Баторыя 1,1 г, дыяметр 18 мм, таўшчыня 0,6 мм, проба 180 праміле. Лігатурная маса С. Жыгімонта III, бітых паводле ардынацыі 1580, 1,1 г, дыяметр 18—19 мм, таўшчыня 0,6 мм, проба 180 праміле; паводле ардынацыі 1604 лігатурная маса 0,5 г, дыяметр 15—16 мм, таўшчыня 0,6 мм, проба 91 праміле; паводле ардынацыі 1623 лігатурная маса 0,7 г, дыяметр 16 мм, таўшчыня 0,6 мм, проба 84 праміле. Лігатурная маса С. Яна II Казіміра, бітых паводле ардынацыі 1652, 0,6 г, дыяметр 15—16 мм, таўшчыня 0,6 мм, проба 125 праміле. Пры Міхале Вішнявецкім і Яне III Сабескім агульнадзярж. С. не выраблялiся, але, як і раней, выпускаліся гарадскія сярэбраныя С., параметры якіх адпавядалі агульнадзяржаўным. 3) Медная манета Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 17—18 ст. У час панавання Яна II Казіміра ў 1650 біліся нешматлікія вял.



**Соліды**: 1, 2 — Стафан Баторый (1581, Рыга; 1584); 3—5 — Жыгімонт III (1614, Вільня; 1623, Вільня; 1627); 6, 7 — Ян II Казімір (1652, Вільня; 1666).

медныя «паўнавартасныя» каронныя С. з каралеўскаю манаграмай масай 2,6 г, дыяметрам 22 мм, таўшчынёй 1,0 мм, якіх ішло 4 на грош. У 1659—66 білася вял. колькасць медных С. з выявай караля масай 1,3 г, дыяметрам 16 мм, таўшчынёй 1,0 мм, якіх ішло 3 на грош. Яны выраблялiся на шматлікіх часовых манетных дварах няпоўнага цыкла, у т.л. на *Берасцейскім манетным двары*. Іх меднае забеспячэнне складала 38,5% у параўнанні з С. 1650. Рэдукцыя 1717, якая панізіла кошт С. 1659—66 да 37,5% у параўнанні з першапачатковым намінальным коштам, ператварыла іх у «паўнавартасныя» манеты ўзроўню С. 1650. С. Яна II Казіміра абслугоўвалі грашовае абарачэнне на працягу 90 гадоў. У 18 ст. С. выпускаліся Аўгустам III у 1749—55 з профільнай выявай караля і масай 1,3 г, дыяметрам 15 мм, таўшчынёй 0,9 мм. Гарадскія С. пачалі вырабляцца з медзі адпаведных паказчыкаў. Пры Станіславе Аўгусце Панятоўскім з 1764 на працягу першых гадоў панавання біліся медныя С. тых жа метралагічных паказчыкаў з каралеўскаю манаграмай і наміналам у полі на адваротным баку, потым праз дзесяцігоддзе-паўтара іх вытворчасць аднавілася на кароткі тэрмін для ўзнаўлення грашовай масы.

*Літ.*: Сінчук I.I. Скарб медных манет XVII ст. з вёскі Данілавічы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1995. № 2; Kopicki E. Ilustrowany skorowidz pieniędzy polskich i z Polską związanych. Cz. 1—2. Warszawa, 1995; Ivanauskas E., Douchis R.J. Coins of Lithuania, 1386—1707. Vilnius; Columbia, 1999.

***Іван Сінчук.***

**Солтан** Станіслаў (1746 або 27.8. 1756—1836), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. З роду *Солтанаў*. Генерал-ад'ютант польнай булавы ВКЛ, харужы ВКЛ з 1782, падкаморы ВКЛ з 1790, маршалак надворны ВКЛ з 1791, староста слонімскі. Актыўны ўдзельнік падрыхтоўкі *паўстання 1794*. Пасля яго падаўлення сасланы ў Казань. Вызвалены Паўлам I. У 1806—07 разам з палкоўнікам Ф.Патоцкім рыхтаваў новае паўстанне ў былым ВКЛ. У 1808 выехаў у Варшаўскае княства. Загадам Напалеона 1.7.1812 прызначаны старшынёй часовага ўрада ВКЛ, адначасова ўзначальваў к-т харчавання і



С.**Солтан**.
Мастак Я.Х.Лампі Старэйшы.

магазінаў. Прыбыў у Вільню 18.7.1812, але па стане здароўя 24.8.1812 вызвалены ад абавязкаў, зноў вярнуўся да іх 6.11.1812. Пасля вайны 1812 у эміграцыі, памёр ў Мітаве (цяпер Елгава, Латвія).

***Аляксандр Ерашэвіч.***

**Солтаны** (Перасвет-Солтаны), шляхецкі род уласнага герба ў ВКЛ. Родапачынальнік Аляксандр (Солтан), магчыма, згадваецца як Аляксандр Юр'евіч, падскарбі земскі, у 1442 і 1454. Падарожнічаў па Еўропе, у 1466 пры двары імператара Фрыдрыха III, у 1468 пры дварах караля Неапаля і Сіцыліі Фердынанда I і міланскага герцага Галеаца-Марыі Сфорца. Ад рымскага папы Паўла II атрымаў ліст для паездкі ў Іерусалім. У 1469 пры дварах партугальскага караля Альфонса V, бургундскага герцага Карла (атрымаў ад яго пасады пісара і шамбеляна), пасля — англійскага караля Эдуарда IV. Паводле некаторых звестак, быў рыцарам Ордэна труны Гасподняй. Найб. вядомыя:

Андрушка Аляксандравіч (?—да 21.6.1498), сын Аляксандра (Солтана). Падскарбі дворны ў 1486 і земскі з 1486.

Івахна Андрэевіч (?—1554), сын Андрушкі Аляксандравіча. Дваранін гаспадарскі ў 1502, падскарбі дворны ў 1505—54, намеснік мейшагальскі і дубянецкі ў 1507—08, віленскі з 1509.

Івашка (Солтан) Аляксандравіч (?—1495), сын Аляксандра (Солтана). Падскарбі земскі ў 1473—86 і дворны з 1476, маршалак гаспадарскі ў 1482—93, слонімскі намеснік ў 1486—87 і гараднічы ў 1486, намеснік навагародскі ў 1486—87. Пасол у Маскву ў 1486 і 1492. У 1493 атрымаў ад вял. кн. Аляксандра Бельскае староства, маёнтак Жыровічы, пабудаваў там царкву, дзе зберагаўся цудатворны *Жыровіцкі абраз Маці Божай*.

Аляксандр Солтанавіч (?—каля 1554), сын Івашкі (Солтана) Аляксандравіча. Маршалак дворны ў 1514—54.

Іван Аляксандравіч (пасля 1520 — да 20.9.1577), сын Аляксандра Солтанавіча. Дзяржаўца астрынскі з 1566, маршалак дворны з 1572.

Станіслаў (1746 або 27.8. 1756—1836), гл. *Солтан* С.

Існаваў іншы род С. (Салтанавічаў), родапачынальнік якога Солтан выслужыў у кн. А.В.Чартарыйскага зямлю ў Ганявічах у Лагойскім маёнтку. У 1496 сыны Солтана Ілья і Грынька сталі служыць вял. кн. Аляксандру. Ілья прыняў манаства з імем Іосіф, у 1507 стаў мітрапалітам кіеўскім, галіцкім і ўсяе Русі (гл. *Іосіф II*).

*Літ.*: Aleksander Sołtan — Szambelan Karola Zuchwałego i Kawaler Złotego Runa. Poznań, 1862; Stebelski I. O przeświętnej familii JMść PP. Sołtanów, fundatorów i kolatirów, jak cerkwi Żyrowickiej dla cudotwornego Matki Bożej obrazu, za ich posesyi tamże zjawionegó, tak i pierwiastkowego monastyru dla mnichów Bazylijanów przy tejże cerkwi i obrazie, z onych szczodrobliwości wystawionego // Archiwum Komisji Historycznej. Kraków, 1878. T. 1; Белецкий А.В. Родопроисхождение Западнорусского митрополита Иосифа II Солтана. Вильна, 1895; Жукович П. Неизданное русское сказание о Жировицкой иконе Божией Матери: (в связи с историей русского дворянского рода Солтанов Жировицких) // Изв. Отд-ния рус. яз. и словесности. Имп. Академии наук. 1912. Т. 17, кн. 2.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**сотнік**, службовая асоба гарадскога самакіравання Беларусі ў 16—18 ст., якая ўзначальвала сотню — частку гарадской абшчыны, вылучаную з вайсковымі і фіскальнымі мэтамі. Пасада С. не прадугледжвалася нормамі *магдэбургскага права*, але існавала і ў га-

радах з такім правам. На думку З.Ю. Капыскага, наяўнасць соценнага падзелу ў гарадах Беларусі сведчыць пра існаванне ў дамангольскі перыяд вечавой арганізацыі гар. самакіравання. С. выбіраліся з заможных мяшчан. Паводле ўстаўнай граматы Магілёву 20.2. 1561, там гар. адміністрацыю ўзначальваў войт, якому дапамагалі 4 С. Яны сачылі, у т.л. праз падначаленых ім дзесятнікаў, за выкананнем мяшчанамі павіннасцей, выплатай падаткаў. Важным абавязкам С. было з'яўляцца са сваёй сотняй на замкавыя работы і для абароны замка ад непрыяцеля. С. прымалі ўдзел у пасяджэннях гар. рады, хоць і не ўваходзілі ў склад магістрата, без іх згоды войт не меў права прымаць важныя рашэнні. У пач. 17 ст. колькасць С. у Магілёве дасягала 17 чал. У 1655 у Слуцку 18 С. камандавалі сваімі сотнямі (атрады па 100 чал.) у складзе 4 палкоў гар. апалчэння — *міліцыі*; у 1775 налічвалася 5 соцень, якія выкарыстоўваліся і для збору падаткаў. У Копысі ў 1635 было 5 соцень, у Шклове ў 1643 — 11 соцень, яны вядомы ў пач. 18 ст. ў Быхаве і інш. гарадах.

***Валерый Пазднякоў.***

**Соф'я** Гальшанская (1405?—21.9.1461), польская каралева, жонка *Ягайлы*. Дачка кн. Андрэя Гальшанскага (Вязынскага, гл. ў арт. *Гальшанскія*) і Аляксандры Дзмітрыеўны Друцкай. Выхоўвалася ў Друцку ў дзядзькі кн. Сямёна Друцкага. 24.3.1422 выйшла замуж за Ягайлу, каранавана ў Кракаве 12.2.1424. Нарадзіла 3 сыноў: Уладзіслава, караля Польшчы і Венгрыі, Казіміра (памёр у дзяцінстве), Казіміра, вял. князя літоўскага і караля польскага (гл. *Казімір IV*). Адыгрывала значную ролю ў паліт. жыцці Польшчы, вяла барацьбу за кароны для сваіх сыноў. У час панавання Казіміра была яго дарадцам. Непрыязна ставілася да інкарпарацыі ВКЛ у Польшчу, прыхільна — да гусіцкага руху. Вызначалася талерантнасцю, не парывала сувязей з літ.-бел. асяроддзем (пры яе двары знаходзілася правасл. шляхта). Пахавана ў Кракаве ў Вавельскім кафедральным касцёле ў капліцы Св. Тройцы.

*Літ.*: Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk i jego czasy. Warszawa, 1981; Rudzki E. Polskie królowie. T. 1. Żony Piastów i Jagiellonów. 2 wyd. Warszawa, 1990.

***Любоў Собалева.***

**Соф'я Вітаўтаўна** (каля 1371—5.7.1453), вялікая княгіня маскоўская. Дачка вял. князя літоўскага *Вітаўта* і яго 2-й жонкі смаленскай княжны Ганны Святаславаўны, жонка маскоўскага вял. кн. Васілія I, маці Васілія II. Сасватана Васілём I у 1390, калі Вітаўт з сям'ёй знаходзіўся ў выгнанні ў сталіцы Нямецкага ордэна Мальбарку. Праз Пскоў і Ноўгарад прыбыла ў Маскву,



**Соф'я Вітаўтаўна** (справа) і вялікі князь маскоўскі Васіль I Дзмітрыевіч. Вышыўка на сакасе мітрапаліта Фоція. 15 ст.

шлюб адбыўся 1.9.1391. С.В. неаднаразова адведвала бацькоў у ВКЛ. Дзякуючы яе шлюбу паміж ВКЛ і Масквой усталяваліся працяглыя мірныя адносіны. У 1417 Васіль I у сваім завяшчанні перадаваў трон малалетняму сыну Васілю, апекунамі над ім і С.В. прызначаліся Вітаўт і ўдзельныя рус. князі. Васіль I памёр 27.2.1425 і намінальна перадаў уладу сыну Васілю II. На чале маскоўскага ўрада стала С.В., якая павяла ўзброеную барацьбу з прэтэндэнтамі на трон Юрыем Дзмітрыевічам (братам Васіля I), яго сынамі Дзмітрыем Шамякам і Васілём Касавокім. Спярша Юрый Дзмітрыевіч быў вымушаны адмовіцца ад сваіх прэтэнзій, але ў 1433 захапіў маскоўскі трон. С.В. ўцякла ў Цвер, пасля ў Кастраму, дзе была зняволена. Пасля смерці Юрыя ў 1434 Васіль II зноў заняў трон. У міжусобную барацьбу былі ўцягнуты і татары. У 1446 С.В. была вымушана за вялізныя грошы выкупіць Васіля II з татарскага палону. Васіль Шамяка ў 1446 зняволіў С.В. і выслаў яе ў Чухламу, потым у Каргапаль, але па патрабаванні Васіля II адпусціў. У 1451 С.В. ўдзельнічала ў абароне Масквы ад татараў. Перад смерцю прыняла манаства з імем Ефрасіння. Малодшая яе дачка Анастасія была аддадзена замуж за Аляксандра Уладзіміравіча, заснавальніка роду князёў *Алелькавічаў* (Слуцкіх). Вобраз энергічнай і смелай правіцельніцы С.В. шырока адлюстраваны ў мастацтве. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 12.

*Літ.*: Аверьянов К.А. Великая княгиня московская Софья Витовтовна // Наш радавод. Гродна, 1991. Кн. 3, ч. 3; Клочков М. София Витовтовна // Русский биографический словарь. Смеловский—Суворина. М., 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Соф'я Слуцкая** (1585—1612), праваслаўная святая, гл. *Радзівіл* С.

**Соцын** (Сацыні; Socin, Sozzini) Фаўст (5.12.1539, г. Сіена, Італія—3.3.1604), італьянскі тэолаг, адзін з ідэолагаў *антытрынітарызму*. Паходзіў з радавітай сям'і, у дзяцінстве асіраціў, рэгулярнай адукацыі не атрымаў. Жыў у Ліёне, Цюрыху, дзе зацікавіўся новымі ідэямі і хутка стаў адным з лідэраў радыкальнай Рэфармацыі. У 1562—74 жыў у Фларэнцыі, пасля ў Базелі, дзе заняўся біблейнымі перакладамі і тэалогіяй. У 1578 прыбыў у Трансільванію, у 1579 пераехаў у Польшчу, дзе і правёў рэшту жыцця (у Кракаве і яго ваколіцах). У 1594 і 1598 каталіцкія фанатыкі рабілі замахі на жыццё С., а яго рукапісы і кнігі былі публічна спалены. Большасць твораў С. была надрукавана пасмяротна. С. аказаў вял. ўплыў на ідэі польскіх антытрынітарыеў і здолеў аб'яднаць іх вакол сваёй дактрыны, стаўшы іх духоўным правадыром. З 1580-х г. С. выступаў супраць радыкальных ідэй С.*Буднага* і М.*Чаховіца*. С. адхіляў догматы Св. Тройцы, першароднага граху і збавення. Хрыста лічыў не Богам, а асаблівым чалавекам, які не выкупляў сваёй пакутніцкай смерцю людскія грахі, а адкрыў людзям шлях да вечнага жыцця (і таму яму трэба пакланяцца як Богу), і гэта дасяжна кожнаму, хто будзе браць з яго прыклад. Гэтым самым С. перанёс увагу са спраў веры на ўчынкі чалавека і яго этыку. С. верыў у магчымасць удасканалення людзей і сацыяльнага жыцця (у т.л. з развіццём тэхнікі), што ў будучым вызваліць іх ад пакут і цяж-



касцей. С. імкнуўся да рацыяналістычнага і бездагматычнага тлумачэння рэлігіі і лічыў, што Біблія як крыніца веры прымальная толькі калі не пярэчыць розуму. Ён адмаўляў сімвалічную інтэрпрэтацыю Бібліі і дапускаў толькі гістарычную, Старому Запавету адводзіў другараднае значэнне. Ідэі С. паклалі пачатак *сацыніянству* і былі працягнуты еўрапейскімі мысліцелямі ў часы Асветніцтва.

*Літ.*: Будрин Е. Антитринитарии XVI в. Вып. 2. Фауст Социн. Казань, 1886; Pioli G. Fausto Sozzini. Parma, 1952; Chmaj L. Faust Socyn (1539—1604). Warszawa, 1963; Martini M. Fausto Socino et la pensée socinienne: Un maitre de la pensée religieuse (1539—1604). Paris, 1967.

***Ігар Клімаў.***

**Спампані** (Spampani) Карла (1750, Рым?—2.5.1783), архітэктар. Прадстаўнік паладыянскай школы. Італьянец. Працаваў у Літве і на Беларусі. У 1770—76 удзельнічаў (з архітэктарамі Я. Габрыэлем і Дж.*Сака*) у стварэнні *Шчорсаўскага палаца.* У 1778—79 (з перапынкамі) працаваў у Нясвіжы; у 1778—83 (паводле інш. звестак у 1780—83) пабудаваў *Радзівілімонтаўскі палац,* а таксама палац у Заслаўі (1778—82), сядзібу і лямус у в. Беніца каля Маладзечна (1779—81), у якіх спалучаліся рысы класіцызму і нар. дойлідства, мост і капліцу ў Кухцічах. У 1773 у Вільні кіраваў будаўніцтвам крылаў будынка езуіцкага калегіума і прыбудовы да абсерваторыі ун-та; у 1775 стварыў праект палаца ў Паўлаве (пад Вільняй). У 1782 абнаўляў капліцу св. Казіміра ў Віленскім кафедральным касцёле.

***Валерый Марозаў.***

**Спасовіч** Уладзімір Данілавіч [16(28).1.1829, г. Рэчыца—26.10 (8.11).1906], адвакат, публіцыст, гісторык, грамадскі дзеяч. Д-р права (1852). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1849) і працаваў у ім (з 1857 праф. крымінальнага права). У лекцыях («Падручнік крымінальнага права», 1863) знаёміў студэнтаў з прагрэсіўнымі філасофскімі і прававымі ідэямі. У 1861 у знак пратэсту супраць жорсткага падаўлення студэнцкага руху пакінуў ун-т. З 1866 вёў адвакацкую дзейнасць. Супрацоўнічаў у час. «Вестник Европы», газ. «Słowo» («Слова»). З яго ўдзелам у 1876 у Варшаве заснаваны часопіс «Ateneum» («Атэнэум»), у 1882 у Пецярбургу — час. «Kraj» («Край»). Даследаваў праблемы гісторыі і культуры зах.-еўрапейскіх і слав. народаў. Пераклаў з лацінскай мовы і выдаў у Пецярбургу працу польскага гісторыка 16 ст. С.Ажэльскага «Восем кніг бескаралеўя з 1572 па 1576 г.» (Т. 1—3, 1856—58), удзельнічаў у падрыхтоўцы да друку выдання *Валюміна Легум* (1859—60). Аўтар гіст. і юрыд. твораў: «Навейшая гісторыя Аўстрыі» (1872), «Жыццё і палітыка маркіза Велястольскага» (1882), «Чарнагорыя і законнік Багішыча» (1889), «Гісторыя польскай літаратуры» (увайшла ў «Гісторыю славянскіх літаратур», 2-е выд., т. 1—2, 1879—81; разам з А.М.Пыпіным), даследаванняў пра творчасць А.Міцкевіча, А.С.Пушкіна, У.Сыракомлі, С.Выспянскага, С.Жаромскага, Дж.Байрана, рус.-польскія літ. сувязі. Прыхільнік культ.-гіст. школы. У канцы 1850-х г. рыхтаваў да выдання Статуты ВКЛ (не выйшлі ў сувязі з паўстаннем 1863—64), адлюстроўваў гісторыю Беларусі і Літвы на старонках «Атэнэума» і «Краю». С. — прататып адваката Фецюковіча ў рамане Ф.Дастаеўскага «Браты Карамазавы». І.Рэпін напісаў яго партрэт (1891, Рус. музей у С.-Пецярбургу).

*Тв.*: Соч. Т. 1—10. 2 изд. СПб.,1 913.

*Літ.*: Кони А.Ф. В.Д.Спасович // Кони А.Ф. Собр. соч. М., 1968. Т. 5; Шалькевич В. Притяжение таланта // Неман. 1984. № 3; Sławęcka E. Włodzimierz Spasowicz jako krytyk literatury rosyjskiej. Wrocław etc., 1969; Kulczycka-Saloni J. Włodzimierz Spasowicz: Zarys monograficzny. Wrocław, 1975.

***Вячаслаў Шалькевіч,***
***Уладзіслаў Шалькевіч.***

**Спірыдон** (у свеце Сава Сатана; ?—1510-я г.), дзеяч праваслаўнай царквы, пісьменнік. Паходзіў з Цвярскога княства. У час барацьбы за Кіеўскую мітраполію паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай выступіў як пабочны кандыдат. Прыбыў у Канстанцінопаль, дзе 15.9.1475 атрымаў ад патрыярха Рафаіла пасвячэнне ў мітрапаліты разам з ганаровым тытулам «мегала эклісея весцітара» — хавальніка патрыяршых адзенняў. Мяркуецца, што паездку С. падтрымала слуцкая княжна Соф'я Сямёнаўна, якая ў 1471 выйшла замуж за цвярскога кн. *Міхаіла Барысавіча,* і яе маці-ўдава. Акцыя была накіравана, відаць, супраць імкнення колаў ВКЛ заключыць царк. унію з каталіцкай царквой (што выявілася ў пасланні кіеўскага мітрапаліта *Місаіла* рымскаму папе ў 1476). У пач. 1476 С. прыбыў у ВКЛ, аднак быў там затрыманы. Яму было вызначана месца жыхарства ў г. Пуня, дзе напісаў «Выклад аб праваслаўнай сапраўднай нашай веры» і «Слова на свята Зыходжання Святога Духа». Пры невядомых абставінах С. вызваліўся з няволі і пераехаў у Маскоўскую дзяржаву. Аднак і тут не прызналі яго мітрапаліцкага тытула. Прынамсі з 1483 С. трымалі ў зняволенні ў Ферапонтавым Белазёрскім манастыры, дзе напісаў «Жыціе Зосімы і Савація салавецкіх» і «Пасланне аб Манамахавым вянцы» (выклад бліскучай гісторыі маскоўскіх вял. князёў на фоне ўсеагульнай гісторыі; прыніжаючы дынастыю Гедзімінавічаў, С. называў Гедзіміна конюхам дробнага васала смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча). С. быў вядомы сярод сучаснікаў як энергічны і шырока адукаваны чалавек, «слуп царквы», аднак асабістыя яго амбіцыі не атрымалі рэалізацыі.

*Літ.*: Турилов А.А. Забытое сочинение митрополита Саввы-Спиридона литовского периода его творчества // Славяне и их соседи. М., 1999. Вып. 7; Флоря Б.Н. Попытка осуществления церковной унии в Великом княжестве Литовском в последней четверти XV—начале XVI века // Там жа.

***Валерый Пазднякоў.***

**Спірыдонаў** Міхаіл Фёдаравіч (н. 10.4.1937, г. Бабруйск), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1982). Скончыў Маскоўскі дзярж. ун-т (1960). З 1960 працаваў у школах Астравецкага, Полацкага, Пухавіцкага р-наў. У 1965—2003 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі (з 1989 старшы навук. супрацоўнік). Займаецца вывучэннем эвалюцыі аграрных адносін на Беларусі 15—16 ст., гіст. картаграфіяй Беларусі 16 ст. Адзін з аўтараў прац «Гісторыя сялянства СССР са старажытнейшых часоў да Вял. Кастр. сацыялістычнай рэвалюцыі» (т. 2, 1990), «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. 1, 1994), «Гісторыя сялянства Беларусі» (т. 1, 1997). Адказны рэдактар раздзела па гісторыі «Нацыянальнага атласа Беларусі» (2002), для якога выканаў шмат карт.

*Тв.*: Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993; Адампаль —



выдатны помнік аграпрамысловай культуры і архітэктуры // Бел. гіст. часопіс. 1997. № 1; Беларусь на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г. // З глыбі вякоў: Наш край: Гіст.-культурал. зб. Мн., 1997. Вып. 2; Метрика Великого княжества Литовского как источник по истории поселений // Lietuvos Metrika. 1991—1996 metų tyrinėjimai. Vilnius, 1998; Заслаўль в XVI в. Мн., 1998; Полаччына ў сярэдзіне XVI ст. // Полацкія гістарычныя запіскі. Наваполацк; Мн., 2004. Т. 1.

**«Спіс рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх»**, гістарычна-геаграфічны твор канца 14 ст., у якім змешчаны пералік «рускіх» гарадоў Усходняй Еўропы, часам з кароткімі тлумачэннямі (колькі ў іх «каменных сцен» і на якой рацэ яны стаяць). Гарады падзелены на групы: балгарскія і валошскія, польскія (падольскія), кіеўская, валынскія, літоўскія, смаленскія, разанскія, залескія; усяго названа 358 гарадоў. «Спіс» захаваўся ў складзе рус. летапісаў сярэдзіны 15—пач. 17 ст. Мяркуецца, што ён складзены ў канцылярыі мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі *Кіпрыяна* на падставе больш ранніх спісаў і адлюстроўвае населеныя пункты, падначаленыя ўладзе правасл. («рускага») мітрапаліта. Бел. гарады ў асноўным уключаны ў раздзел «літоўскія гарады». Сярод іх: «Рша камен» (Орша з мураваным замкам), «Полтеск на Двине и на Полоте древян, а святая София каменна о седми версех», «Видбеск, 3 стены камены, а река Видба и Двина», «Крев камен», Слуцк, Менск, Навагародак і інш. Адзін раз упамінаюцца і не лакалізуюцца на сучаснай карце гарады Беразуеск, Няміза, Мчэнеск. Шмат бел. гарадоў упомнена сярод кіеўскіх: Гомель, Магілёў, Рэчыца, Капыль, Тураў і інш. Сярод валынскіх гарадоў адзначаны Пінск, Берасце і інш. У «Спісе» ўпершыню адзначаны бел. гарады і мястэчкі Горваль, Лоск, Магілёў, Стрэшын, Цяцерын. Падзел усх.-слав. гарадоў на групы адлюстроўвае, відаць, паліт. межы больш ранняга часу. «Спіс» мае вял. значэнне для гіст.-геагр. даследаванняў, вывучэння паліт. гісторыі і змянення межаў ва Усх. Еўропе ў 14 ст.

*Літ.*: Тихомиров М.Н. «Список русских городов дальних и ближних» // Тихомиров М.Н. Русское летописание. М., 1979; Наумов Е.П. К истории летописного «Списка русских городов дальних и ближних» // Летописи и хроники, 1973 г. М., 1974; Подосинов А.В. О принципах построения и месте создания «Списка русских городов дальних и ближних» // Восточная Европа в древности и средневековье. М., 1978; Янин В.Л. Новгород и Литва: Пограничные ситуации XIII—XV вв. М., 1998; Казаков Р.Б. Летописный «Список русских городов дальних и ближних» в исторической науке первой четверти XIX века: Н.М.Карамзин и З.Я.Доленга-Ходаковский // Археографический ежегодник за 2000 год. М., 2001.

*Валерый Пазднякоў.*

**Спрогіс** (Спрогис) Іван Якаўлевіч [20.6(2.7).1833, хутар Штокмансгоф Ліфляндскай губ.—1918], расійскі гісторык, архівіст. Скончыў рыжскія духоўнае вучылішча і семінарыю (1861), вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, з якой выключаны ў 1863 за ўдзел у студэнцкіх «беспарадках». У 1863 памочнік загадчыка чытальнай залы Пецярбургскай публічнай б-кі. З 1864 на пазаштатнай пасадзе настаўніка Віленскай навучальнай акругі з даручэннем прывесці ў парадак кнігі Віленскай публічнай б-кі. З 1865 памочнік архіварыуса, у 1879—1915 архіварыус Віленскага цэнтр. архіва стараж. актаў. Адначасова ў 1870—1915 чл. Віленскай археаграфічнай камісіі, разам з М.І.Гарбачэўскім, П.А.Гільтэбрантам і інш. падрыхтаваў шэраг тамоў *Актаў Віленскай камісіі*; напісаў прадмовы да тамоў: 6 (1872), 8 (1875), 12 (1883), 14 (1887), 18 (1891), 24 (1897), 28 (1901), 29 (1902), 32 (1907), 36 (1912), склаў паказальнікі да многіх тамоў актаў і да т. 1—13 *«Археаграфічнага зборніка дакументаў»*. Удзельнік 9-га археалагічнага з'езда ў Вільні (1893). Рыхтаваў геагр. паказальнікі па дакументах архіва, распрацаваў да іх навукова-даведачны апарат. Пачатая ім праца па складанні вопісу на актавыя кнігі архіва няскончана (у ёй зафіксавана 12 108 кніг супраць 18 243, што складалі «Каталог» Гарбачэўскага). Шмат увагі аддаваў апісанням цэркваў і манастыроў.

*Тв.*: Памятники латышского народного творчества. Вильна, 1868; Географический словарь древней Жомойтской земли XVI ст. Вильна, 1888; Древний народный копный суд в Северо-Западной Руси. Витебск, 1895; Виленские архивы... Вильна, 1902; Подробный алфавитный указатель к 1—13 т. Археографического сборника. Вильна, 1905.

*Літ.*: Пятидесятилетние службы И.Я.Спрогиса. Вильна, 1914; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Бутенас Д.П. Вопросы фондирования документов Великого княжества Литовского в каталоге И.Спрогиса // Материалы межресп. науч. конф. по источниковедению и историографии народов Прибалтийских республик Союза ССР. Источниковедение. Вильнюс, 1978.

*Міхаіл Шумейка.*

**Стадніцкі** (Stadnicki) Казімеж (29.6.1808, г. Жмігруд, Польшча—9.4.1886), польскі гісторык, генеалог. Д-р абодвух правоў, чл. Польск. АН у Кракаве (1873). Скончыў Венскі ун-т. З 1842 на адм. службе ў Галіцы. Вывучаў сярэдневяковую гісторыю, генеалогію і геральдыку Польшчы і ВКЛ. Распрацаваў раннюю генеалогію *Гедзімінавічаў*.

*Тв.*: Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza, króla Polski, wielkiego księcia Litwy. Lwów, 1867; Olgierd i Kiejstut, synowie Gedymina, w. księcia Litwy. Lwów, 1870; Dodatki i poprawki do dzieł: Bracia Władysława Jagiełły i Olgierd i Kiejstut. Lwów, 1873; Koriat Gedyminowicz i Koriatowicze. Kraków, 1877; Synowie Gedymina wielko-władcy Litwy: Monwid—Narymunt—Jewnuta—Koriat. 3 wyd. Lwów, 1881.

*Валерый Пазднякоў.*

**Стакаўскас** (Stakauskas) Юозапас (24.7.1900, в. Дзякснес Ігналінскага р-на, Літва—2.3.1972), літоўскі гісторык. Д-р гісторыі (1930). Вучыўся ў Інсбрукскім і Венскім ун-тах. З 1626 святар. З 1935 дырэктар Каўнаскага цэнтр. дзярж. архіва, у 1940—44 — Вільнюскага дзярж. архіва. У 1959—70 выкладаў у Каўнаскай духоўнай семінарыі. Даследаваў праблемы царк. гісторыі Літвы, пытанні літ. нацыянальнага руху ў 19 ст. Аўтар кнігі «Літва і Заходняя Еўропа ў XIII ст.» («Lietuva ir Vakarų Europa XIII amћiuje», Каўнас, 1934; 2 выд. Вільнюс, 2004), дзе разглядзеў працэс станаўлення дзяржавы Міндоўга, яго хрышчэнне, адносіны з рымскай курыяй і крыжакамі.

**Сталавіцкая бітва 1771**. Адбылася 23 вер. каля мяст. Сталавічы ў Навагародскім ваяв. (цяпер вёска ў Баранавіцкім р-не) паміж войскамі ВКЛ і Расіі ў час барацьбы *Барскай канфедэрацы*і супраць ваеннай прысутнасці Расіі. Абвяшчэнне кіраўніцтвам канфедэрацыі бескаралеўя ў Рэчы Паспалітай справакавала кіраўнікоў мясц. канфедэрацыі на рабаванне каралеў-



скіх уладанняў і маёнткаў сваіх паліт. сапернікаў. Вял. гетман ВКЛ Міхаіл Казімір *Агінскі* адышоў ад палітыкі нейтралітэту, стаў на бок Барскай канфедэрацыі і ў маі 1771 сабраў пад сваё камандаванне 2 тыс. чал. войска ВКЛ. 26.8(6.9).1771 каля в. Рудзькі Пінскай эканоміі разбіў батальён з 500 салдат палкоўніка А.Албічава. 30.8(10.9).1771 у мяст. Хомск заклікаў разрозненыя сілы канфедэратаў злучыцца для абароны «веры, вольнасці і незалежнасці». Рас. камандаванне праявіла нерашучасць, і тады ліквідаваць небяспечны ачаг супраціўлення на ўласную рызыку ўзяўся генерал-маёр А.В.*Сувораў*. 1(12).9.1771 ён выступіў з-пад Любліна на чале 1 тыс. чал. з 8 гарматамі, а 10(21).9.1771 стаў у Слоніме. Каля 2 гадзін ночы 12(23).9.1771 атрад Суворава з 900 чал. падышоў з боку в. Сачыўка да паўд. ускраіны Сталавіч, дзе начаваў Агінскі. Сувораў з ходу разгарнуў свае сілы ў 2 лініі. Пярэдняя лінія пад гарматным агнём з мястэчка прайшла ў Сталавічы вузкай грэбляй праз балота. За ёю ўварвалася кавалерыя на чале з маёрам А.Рылеевым. Пасля гадзіны вулічных баёў нападаўшыя знішчылі каля 300 жаўнераў, захапілі 10 гармат, сцягі, гетманскую булаву і касу з 50 тыс. чырвоных злотых. Рэштка войска Агінскага ў 500 чал. выйшла на 3 ад Сталавіч пад ахову гал. абозу. Каля 4 гадзін раніцы Сувораў атакаваў абоз спачатку гарматным агнём, а потым кінуў на яго ўвесь свой фронт. Кавалерыя змяла правае крыло войска Агінскага і пагнала яго жаўнераў на мяст. Моўчадзь. У гэты час на дапамогу Агінскаму падаспелі 2 уланскія палкі татараў (каля 1 тыс. коннікаў) пад камандаваннем Ю.*Беляка*, якія акружылі 3 рас. эскадроны. У ходзе 8-гадзіннага бою Сувораў страціў 78 салдат, а Агінскі — 500 чал. забітымі і каля 300 палоннымі. Пасля паражэння ў бітве Агінскі выехаў за мяжу, а Сувораў накіраваўся ў Пінск з мэтай раззброіць штаб і світу гетмана. За самавольны паход Суворава ледзь не аддалі пад суд, але Кацярына II узнагародзіла яго ордэнам св. Аляксандра Неўскага. С.б. стала апошнім арганізаваным супраціўленнем войска ВКЛ напярэдадні *першага падзелу Рэчы Паспалітай*.

*Літ.*: Гейсман П.А. «Конец Польши» и Суворов. СПб., 1900; Konopczyński W. Konfederacja barska. T. 2. 2 wyd. Warszawa, 1991.

***Яўген Анішчанка.***

**Сталавіцкі касцёл Яна Хрысціцеля.** Пабудаваны ў мяст. Сталавічы Навагародскага пав. (цяпер вёска ў Баранавіцкім р-не) як гал. храм камандорыі *Мальтыйскага ордэна*. У 1639 паводле загаду камандора Ж.К.*Радзівіла* пабудавана мураваная Ларэтанская капліца. У 1740 паводле праекта архітэктара Ю.*Фантана* III пачалося будаўніцтва муравана касцёла, у агульны аб'ём якога капліца ўключана як прэсбітэрый. У 1743 архітэктар І.К.*Глаўбіц* дапрацаваў праект і закончыў будаўніцтва касцёла. Пачаў дзейнічаць з 1746. 3-нефавая базіліка з больш нізкімі прэсбітэрыем і сакрыстыямі. Гал. фасад складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з 2 вежамі па баках падзелены раскрапаванымі антаблементамі на 3 ярусы. Яго асн. дэкаратыўны матыў — слаістыя пілястры. Уваход падкрэслены 4 паўкалонамі. Бакавыя фасады раскрапаваны пілястрамі. Высокія аконныя праёмы з паўцыркульнымі завяршэннямі аздоблены ляпнымі абрамленнямі. Інтэр'ер падзелены 2 радамі слупоў на 3 нефы. Цэнтр. перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі на падпружных арках, завершаны 3-ярусным алтаром і злучаны з Ларэтанскай капліцай. Бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, завершаны 2-яруснымі алтарамі. Хоры падтрымліваюць 2 калоны. Дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера (архітэктар Глаўбіц) выканана ў тэхніцы стука. Першы ярус гал. алтара аформлены спаранымі калонамі карынфскага ордэра і развітым антаблементам, у другім ярусе вертыкальны рытм калон паўтараюць пілястры з раскрапаванымі карнізамі, трэці ярус завяршае кампазіцыю алтара глорыяй. У цэнтры алтара над дзвярамі барочны картуш з рэльефнай выявай адсечанай галавы Яна Хрысціцеля. У 1863 касцёл перабудаваны ў правасл. Успенскую царкву.

***Тамара Чарняўская, Майя Яніцкая.***

**Сталавіцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1793—95 у складзе *Навагародскага ваяводства*. Цэнтр — мяст. Сталавічы (цяпер вёска Баранавіцкага р-на). Быў вылучаны з Навагародскага пав. У склад С.п. ўвайшлі Гарадзішчанская, Дараўская, Задзвейская, Ішкалдская, Крошынская, Крывошынская, Мышская, Паланэчкаўская, Сваятыцкая і Сталавіцкая парафіі, а таксама часткі парафій, што засталіся ў межах ВКЛ пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай, — Ляхавіцкай, Мірскай, Мядзведзіцкай і Нясвіжскай. Пры гэтым Мірская парафія падзелена, у склад С.п. ўвайшла яе частка з Мірскім графствам, населенымі пунктамі Гарадзея, Падлессе, Мядзведка, Горка, Варацішча, Карыцін. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**сталовы маёнтак**, гл. *Эканомія*.

**Станг** (Stang) Хрысціян Швейнгард (15.3.1900, Осла—2.7.1977), нарвежскі славіст. Д-р філасофіі (1929). Скончыў ун-т у Осла (1927), праф. кафедры слав. моў гэтага ун-та (1938—70). Аўтар прац у галіне параўнальна-гіст. індаеўрапейскага і слав. мовазнаўства. Шмат увагі аддаваў гісторыі ўсх.-слав. моў, асабліва беларускай. У кнізе «Заходнеруская канцылярская мова Вялікага княства Літоўскага» («Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen», Осла, 1935) на вял. фактычным матэрыяле з юрыд. пісьмовых помнікаў абгрунтаваў сцверджанне аб бел. аснове мовы дзелавой пісьменнасці ВКЛ. Манаграфію «Старажытнаруская мова помнікаў горада Полацка» («Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polozk», Осла, 1939) прысвяціў падрабязнаму апісанню фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу і лексікі полацкіх грамат 13—16 ст. Аўтар прац «Славянскі і балтыйскі дзеяслоў» (1942, на нямецкай мове), «Славянская акцэнтуацыя» («Slavonic Accentuation», Осла, 1967).

***Аркадзь Жураўскі.***

**Станіслаў** Ляшчынскі (20.10.1677, г. Львоў—23.2.1766), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1704—09, 1733]. Паходзіў са старадж. польскага шляхецкага роду, сын ваяводы пазнанскага і падскарбія каронната Рафала Ляшчынскага. У юнацтве аб'ехаў многія краіны Еўропы, пабываў пры розных каралеўскіх дварах. З 1696 выбіраўся паслом на соймы, з 1697 падчашы каронны, з 1699 ваявода пазнанскі. У 1703 узначаліў апазіцыю каралю Аўгусту II Моцнаму. У час *Паў-*


**Станіслаў** Ляшчынскі.

*ночнай вайны 1700—21* стаў прыхільнікам саюзу са Швецыяй і выступіў за абранне каралём Якуба Сабескага, сына Яна III Сабескага. Адзін з ініцыятараў стварэння Варшаўскай канфедэрацыі, якая 14.2.1704 абвясціла дэтранізацыю Аўгуста II і бескаралеўе. Аднак Я.Сабескі і яго брат Канстанцін былі зняволены Аўгустам II у саксонскай крэпасці Кёнігштайн. Паводле загаду шведскага караля Карла XII 12.7.1704 элекцыйны сойм абраў С. на трон Рэчы Паспалітай. У С. не было шматлікіх войск і прыхільнікаў. Толькі пасля паражэння Аўгуста II у Саксоніі ад войск Карла XII і яго адрачэння ад польскага трона ў 1706 С. быў прызнаны каралём большасцю магнатаў у Польшчы, Літве і Беларусі. Аднак пасля Палтаўскай бітвы 1709 прыхільнікі пачалі пакідаць С. З рэштkамі шведскіх войск ён адышоў у Памеранію, пасля эмігрыраваў у Эльзас, дзе атрымліваў пенсію ад французскага караля. У 1725 французскі кароль Людовік XV ажаніўся з малодшай дачкой С. — Марыяй. Пасля смерці Аўгуста II (1733) французская дыпламатыя вылучала С. кандыдатам на трон Рэчы Паспалітай. 12 тысяч выбаршчыкаў 12.9.1733 абралі С. каралём польскім і вял. князем літоўскім. Аднак Расія і Аўстрыя не пагадзіліся з гэтым. Праз Беларусь і Літву ў Варшаву прыйшла рас. армія пад камандаваннем П.Ласі. Пад аховаю рас. войск 5.10.1733 меншасць выбаршчыкаў абрала каралём Аўгуста III. Пачалася вайна за польскую спадчыну. У 1736 С. быў вымушаны адмовіцца ад трона і зноў эмігрыраваў у Францыю. У выніку Венскага міру 1738 паміж Францыяй і Аўстрыяй, якім скончылася вайна, С. атрымаў у пажыццёвае кіраванне герцагствы Латарынгію і Бар пад кантролем Францыі. У Латарынгіі С. вёў шырокае будаўніцтва, адкрыў вайсковую школу для маладых людзей з Рэчы Паспалітай, займаўся філасофіяй і пісаў навуковыя трактаты. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 26.

*Літ.*: Feldman J. Stanisław Leszczyński. 2 wyd. Warszawa, 1959; Zahorski A. Stanisław Leszczyński // Poczet królów i książąt polskich. Warszawa, 1987; Cieślak E. Stanisław Leszczyński. Wrocław etc., 1994; Грыцкевіч А. Станіслаў Ляшчынскі (1677—1766) // Культура 1994. 1 чэрв.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Станіслаў Аўгуст** Панятоўскі (да каранацыі Станіслаў Антоні; 17.1.1732, мяст. Воўчын Берасцейскага пав.—12.2.1798), апошні кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1764—95]. Паходзіў з магнацкага роду *Панятоўскіх*. Атрымаў выдатнае дамашняе выхаванне, скончыў калегіум тэатынаў у Варшаве. Падарожнічаў па Францыі і Англіі. З маладосці быў звязаны з групоўкай *Чартарыйскіх*, якая мела значны ўплыў у Рэчы Паспалітай. У 1755—64 займаў ганаровую пасаду стольніка ВКЛ. У 1755—56 і 1757—58 знаходзіўся ў Пецярбургу як сакратар англійскага пасольства і пасол Саксоніі і Рэчы Паспалітай. Зблізіўся з вял. княгіняй Кацярынай Аляксееўнай (будучая імператрыца Кацярына II) і меў ад яе дачку. Пасля смерці караля польскага і вял. князя літоўскага Аўгуста III (1763) Чартарыйскія і Кацярына II вылучылі кандыдатуру Панятоўскага на трон Рэчы Паспалітай. Кацярына II разлічвала на падпарадкаванне ёй новага караля, патрабавала за падтрымку перадаць Расіі тэрыторыі ўсх. Беларусі, усх. Латвіі і выдаць «многія тысячы» сялян, што ўцяклі з Расіі ў Беларусь з-за цяжкага прыгонніцтва. У Рэч Паспалітую былі ўведзены рас. войскі, і на элекцыйным сойме 6.9.1764 Панятоўскі быў абраны каралём. Напачатку ён разам са сваімі сваякамі Чартарыйскімі спрабаваў вызваліцца ад поўнай залежнасці ад Расіі, шукаў шляхі да саюзу з Аўстрыяй і Францыяй; ва ўнутр. палітыцы выступаў за пагадненне з апазіцыйнай групоўкай Патоцкіх («рэспубліканцамі»), каб адстаяць незалежнасць дзяржавы. Аднак гэтая кансерватыўная групоўка магнатаў засталася непрыхільнай да караля, захаваўшы свае погляды на дзярж. лад са слабай каралеўскай уладай і сімпатыі да Саксонскай дынастыі (з яе паходзілі Аўгуст II і Аўгуст III). С.А. спрабаваў стварыць сваю групоўку цэнтрысцкага характару, што прывяло да канфлікту з Чартарыйскімі. Тым не менш рэформы па ўзмацненні дзярж. улады ў 1764—66 праводзіліся разам з Чартарыйскімі, аднак яны былі прыпынены новай інтэрвенцыяй Расіі. Скарыстаўшы Тарунскую канфедэрацыю і *Слуцкую канфедэрацыю*, Кацярына II навязала сойму і каралю *дагавор 1768*, якім Расія гарантавала Рэчы Паспалітай захаванне *Кардынальных правоў*. Улада караля апынулася пад кантролем Расіі. Шырокія колы патрыятычна настроенай шляхты


**Станіслаў Аўгуст** Панятоўскі. Мастак П.Крафт Старэйшы. Каля 1768.


Каранацыйны медаль **Станіслава Аўгуста** Панятоўскага. Медальер Т.Пінга. 1764.



ўзняліся за аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай, супраць караля-«узурпатара» і стварылі *Барскую канфедэрацыю*. На тэрыторыю Рэчы Паспалітай зноў былі ўведзены рас. войскі, і канфедэраты пацярпелі паражэнне. Вынікам гэтага стаў *першы падзел Рэчы Паспалітай* (1772). С.А. спрабаваў пратэставаць, звяртаўся да еўрапейскіх двароў, але ніводная дзяржава не прыйшла яму на дапамогу.

Пасля 1-га падзелу ў барацьбе паміж рознымі магнацкімі групоўкамі ён паступова ўзмацніў сваю ўладу. У 1775 створана *Пастаянная Рада* — цэнтр. орган выканаўчай улады на чале з каралём; прыняты рашэнні, накіраваныя на развіццё прамысловасці і гандлю, паляпшэнне прававога становішча мяшчан, у 1776 абмежавана ўлада гетманаў і каралю падпарадкавана войска. Але правядзенне далейшых рэформ Расія не дазваляла. Давялося пайсці на кампраміс з Кацярынай II і прызнаць над сабой кантроль рас. пасла О.М. фон Штакельберга. Кацярыну II падтрымлівала магнацкая апазіцыя на чале з Я.К.Браніцкім (пазней з С.Ш.Патоцкім). С.А. падтрымліваў асветніцтва і адукацыю, адкрыў у Варшаве рыцарскую школу (кадэцкі корпус), садзейнічаў *Адукацыйнай камісіі*, быў мецэнатам, апекаваўся тэатрам і выяўленчым мастацтвам, намагаючыся ўзняць прэстыж Рэчы Паспалітай у Еўропе.

Адносная раўнавага ў паліт. жыцці Рэчы Паспалітай была пахіснута дзейнасцю новай апазіцыі, якая на *Чатырохгадовым сойме 1788—92* правяла шматлікія і грунтоўныя рэформы. С.А. пайшоў на пагадненне з рэфарматарамі. У адказ кансерватыўная групоўка магнатаў — *Таргавіцкая канфедэрацыя* — садзейнічала ў 1792 акупацыі краіны рас. войскамі. Рэформы былі скасаваны, С.А. далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі, і на яго лягла адказнасць як на капітулянта. У час *Гарадзенскага сойма 1793* С.А. дзейнічаў цалкам пад кантролем рас. пасла Я.Я.Сіверса і пагадзіўся на *другі падзел Рэчы Паспалітай*. У час *паўстання 1794* пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі С.А. адхілены ад улады, хоць фармальна захаваў трон. Пасля паражэння паўстання С.А. паводле загаду Кацярыны II выехаў у Гародню, дзе жыў у каралеўскім палацы. Тут ён даведаўся пра *трэці падзел Рэчы Паспалітай* і 25. 11.1795 падпісаў акт адрачэння ад кароны на карысць Кацярыны II. Гэтым актам было спынена існаванне Рэчы Паспалітай і яе часткі — ВКЛ. Пасля смерці Кацярыны II (ліст. 1796) Павел I выклікаў С.А. ў С.-Пецярбург, дзе ён памёр. Пахаваны ў касцёле св. Кацярыны, у 1938 яго астанкі перададзены польскім уладам і перапахаваны на радзіме — у *Воўчынскім Троіцкім касцёле*. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 530.

*Тв.*: Memoires. T. 1—2. St-Petersbourg; Leningrad, 1914—24; Rozmowy z ludźmi. Lwów, 1930.

*Літ.*: Schmitt H. Dzieje panowania Stanisława Augusta Poniatowskiego. T. 1—3. Lwów, 1868—80; Пуле М. де. Станислав-Август Понятовский в Гродно и Литве в 1794—1797 гг. 2 изд. СПб., 1871; Kalinka W. Ostatnie lata panowania Stanisława Augusta. Cz. 1—2. 2 wyd. // Kalinka W. Dzieła. Kraków, 1891. T. 1—2; Korzon T. Wewnętzne dzieje Polski za Stanisława Augusta (1764—1794). T. 1—6. 2 wyd. Kraków; Warszawa, 1897—98; Rudziński O. Stanisław August w pierwszym okresie swego panowania, 1764—1773. Warszawa, 1927; Niec J. Młodość ostatniego elekta: St.A.Poniatowski, 1732—1764. Kraków, 1935; Mann Z. Stanisław August na sejmie ostatnim. Warszawa, 1938; Rostworowski E. Ostatni król Rzeczypospolitej: Geneza i upadek Konstytucji 3 Maja. Warszawa, 1966; Zahorski A. Stanisław August polityk. 2 wyd. Warszawa, 1966; Яго ж. Spór o Stanisława Augusta. 2 wyd. Warszawa, 1990; Żywirska M. Ostatnie lata życia króla Stanisława Augusta. Warszawa, 1975; Góralski Z. Stanisław August w insurekcji kościuszkowskiej. Warszawa, 1988; Zamojski A. Ostatni król Polski. Warszawa, 1990; Грыцкевіч А. Апошні кароль // Культура. 1994. 20 ліп.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**станіслаўдор**, залатая манета Рэчы Паспалітай з пазначаным на ёй наміналам 1,5 дуката (паўтарачны чырвоны злоты), якая у невялікай колькасці выпускалася ад імя караля Станіслава Аўгуста ўрадам паўстанцаў у 1794 на Варшаўскім манетным двары. Проба 833 праміле (20 каратаў), лігатурная маса 6,17 г, дыяметр 22 мм. Выпушчана больш за 8 тыс. манет. Адначасова выпускалася аднатыпная манета падвойны С. наміналам 3 дукаты (патройны чырвоны злоты) з лігатурнай масай 12,34 г, дыяметрам 29 мм, якая часам у спец. л-ры памылкова называецца С. (выпушчана больш за 5 тыс.).

***Іван Сінчук.***

**стапа**, адзінка даўжыні. У Польшчы ў 13—18 ст. звычайная С. раўнялася далоні ці 1/2 кракаўскага локця (0,297768 м), каронная С. роўная 0,356421 м. У сістэме мер ВКЛ 1764—66 устаноўлена літоўская С. з 12 цаляў (0,324885 м), роўная парыжскай С. У 1785 Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай вызначыла даўжыню С. ў 1308,5 ліній.

*Літ.*: Петрушевский Ф.З. Польская метрология, или Описание польских мер, весов и монет. 2 изд. СПб., 1834; Stamm E. Miary powierzchni w dawniej Polsce. Kraków, 1936.

***Яўген Анішчанка.***

**стараабраднікі**, стараверы, прыхільнікі стараабрадніцтва — рэлігійнай плыні, якая ўзнікла ў выніку расколу ў Рускай праваслаўнай царкве; адмовіліся прызнаць царк. рэформы патрыярха Нікана 2-й пал. 17 ст. Стараабрадніцтва ў адносінах да рэліг. дагматыкі не адрознівалася ад рэфармаванай правасл. царквы, аднак С. настойліва захоўвалі старую абраднасць (адсюль назва), якая існавала да ніканаўскіх рэформ: 8-канцовы крыж, двухперсце, двайная (сугубая) алілуя, напісанне слова «Иисус» з адным «и», хаджэнне вакол налоя «па сонцу» і інш. Дарэформенныя абрады строга захоўваліся і ў побыце. Падзяляліся на 2 буйныя часткі: папоўцаў і беспапоўцаў. Першыя стаялі бліжэй да афіцыйнай правасл. царквы, аднак прызнаць цара-рэфарматара памазанікам божым, тым больш кіраўніком царквы (пачынаючы з Пятра I) адмаўляліся. Стараабрадніцкія святары ў сваіх богаслужэннях упаміналі імя імператара, але называлі яго толькі «высакародным», а не «набожным і благаверным», як патрабавалася паводле ніканаўскай рэформы. У папоўстве захоўваўся ўвесь традыцыйны духоўны лад. Больш радыкальныя беспапоўцы адмовіліся ад інта свяшчэнства (адсюль назва), афіцыйную правасл. царкву яны лічаць ератычнай, якая трапіла пад уладу антыхрыста. Кожная з гэтых частак падзяляецца на сагласы: у папоўстве — аўстрыйскі (Белакрыніцкая іерархія), веткаўскі, дыяканаўскі, епіфанеўскі і інш.; у беспапоўстве — паморскі, федасееўскі, філіпаўскі (спальшчыкі або марэльшчыкі), нетаўскі (спасаўскі), пастухоўскі (адамантавы) і інш. Пры-

чынамі разнагалосся паміж імі былі спрэчкі па пытаннях культу і адносінах да ўлад. Акрамя падзелу на сагласы існуе падзел на толкі (у навук. л-ры іх дакладныя значэнні не высветлены, тэрмін «толк» можа азначаць і больш буйны і больш дробны, чым «саглас», падзел стараабраднішчтва).

У ВКЛ С. сталі перасяляцца ў 1650-я г. з Памор'я і Ноўгарада. Беспапоўцы (паморцы, федасееўцы, з 1760-х г. філіпаўцы) аселі пераважна на паўн. землях: у Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс, Латвія), Браславе, Полацкім (Лепель, Полацк, Себеж, Сянно) і Віцебскім (Веліж, Віцебск, Копысь) ваяв. Яны складалі найб. прыгнечаную частку сялянства і інш. ніжэйшых саслоўяў, таму адмаўлялі любы кампраміс з дзяржавай і «ніканіянскай» (рэфармаванай правасл.) царквой. Беспапоўцы ў сваіх службах адмаўляліся маліцца за цара, не будавалі вял. і багатых храмаў, часта пераязджалі з месца на месца, што не давала магчымасці весці іх дакладны ўлік, былі больш адасобленымі і замкнёнымі. Папоўцы (і невял. колькасць паморцаў і федасееўцаў) пасяліліся на У і ПдУ Беларусі — у Аршанскім (Магілёў, Чэрыкаў) і Рэчыцкім пав. (Ветка, Гомель). Папоўцамі былі пераважна заможныя сяляне, рамеснікі, купцы. Іх цэрквы па велічыні і багацці не саступалі праваслаўным. Найбуйнейшым пасяленнем папоўцаў (і ўвогуле С.) на Беларусі была Ветка, заснаваная ў 1685. Хутка вакол яе вырасла 14 слабод: Буда, Грабаўка, Гродня, Дубовы Лог, Касецкая, Касцюковічы, Красная, Крупец, Мар'іна, Мільча, Ніўкі, Папсуеўка, Спасаўка, Тарасаўка. У 1690 становішча С. у Ветцы і слабодах абследавала ўрадавая камісія (сакратар А.М.Пацей), створаная «для азнаямлення з новай верай». Камісія не знайшла ніякай «схізматычнасці» і канстатавала, што С. не належаць да небяспечных для дзяржавы і царквы сектантаў. Гэта паспрыяла паляпшэнню ўмоў жыцця С. і далейшаму прытоку новых перасяленцаў: у 2-й чвэрці 18 ст. ў Ветцы і слабодах было 40 тыс. жыхароў. На Гомельшчыне дзейнічалі ўплывовыя манастыры і скіты, якія адыгрывалі ролю манастыроў: Абрамаўскі, Веткаўскі, Іаасафаўскі, Пыханскі, Тырлаўскі мужчынскія манастыры, жаночы манастыр пры Спасавай слабадзе каля Гомеля, скіты каля в. Агародня-Гомельская і Чыстыя Лужы. У 1735 і 1764 царскія ўлады, занепакоеныя ўцёкамі С. у Рэч Паспалітую (сярод уцекачоў былі і ўдзельнікі паўстанняў, у т.л. стралецкіх бунтаў канца 17 ст.), правялі з удзелам войск 2 т.зв. выгнанкі з Веткі і слабод; захопленыя высяляліся ў Сібір, Ветка была двойчы спалена. Частка С. веткаўскага сагласа здолела ўцячы. Яны пасяліліся ў Віцебску, Лепелі, Полацку і іх ваколіцах, у Менскім ваяв. (каля Бабруйска і Барысава).

*Літ.*: Лилеев М.И. Из истории раскола на Ветке и в Стародубье XVII—XVIII вв. Вып. 1. Киев, 1895; Смирнов П.С. История русского раскола старообрядчества. 2 изд. СПб., 1895; Его ж. Из истории раскола первой половины XVIII в.: По неизд. памятникам. СПб., 1908; Мельников П.И. Очерки поповщины // Мельников П.И. Собр. соч. М., 1976. Т. 7; Iwaniec E. Z dziejów staroobrzędowców na ziemiach polskich XVII—XX w. Warszawa, 1977; Короткая Т.П., Прокошина Е.С., Чудникова А.А. Старообрядчество в Беларуси. Мн., 1992; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.). Мн., 1998; Гарбацкі А.А. Стараабраднічтва на Беларусі ў канцы XVII—пачатку XX стст. Брэст, 1999.

***Андрэй Гарбацкі.***

**Старавольскі** (Starowolski) Шыман (1588, в. Стараволя каля Пружан—6.4.1656), гісторык, пісьменнік. У маладосці пры двары гетмана Я.Замойскага. У 1608—12 суправаджаў малодых князёў Астрожскіх у падарожжы па Еўропе. Вучыўся ў Лёвенскім (Галандыі) і Кракаўскім ун-тах (1618—19) і ў цыстэрцыянскім кляштары ў Вонхацку (1619—20). У 1620—21 сакратар і гістарыёграф вял. гетмана ВКЛ Я.К.Хадкевіча. У наступныя гады суправаджаў у падарожжах па Еўропе сыноў магнатаў Сапегаў, Патоцкіх, Канецпольскіх. У 1639 атрымаў духоўны сан, з 1655 вавельскі канонік (Кракаў). Пакінуў каля 70 прац па гісторыі, тэалогіі, праве, палітыцы, ваеннай справе, эканоміцы, музыцы (на польскай і лацінскай мовах). Кнігу «Пра дзеянні Жыгімонта I» (1616) напісаў на падставе хронік Я.Гербурта, М. і Я. Бельскіх, успамінаў свайго бацькі. Апісаў ваенныя выправы караля супраць крыжакоў, перамогу ў Аршанскай бітве 1514, што павінна было натхніць шляхту перад непапулярным у грамадстве паходам каралевіча Уладзіслава на Маскву. Кніга «Гістарычная страва, або Трактат пра сапраўдны і карысны спосаб чытання гісторыі» (1620) — дапаможнік для студэнтаў па метадалогіі гісторыі. У гал. яго творы «Сотня польскіх пісьменнікаў» (1625, 2 выд. 1627) змешчаны 172 (у 2-м выданні 232) біяграфіі выдатных тэолагаў, прамоўцаў, гісторыкаў, філосафаў, лекараў, матэматыкаў і інш. з пералічэннем іх друкаваных і рукапісных твораў. Дадаткам да гэтай кнігі стаў твор «Пра знакамітых сармацкіх прамоўцаў» (1628), у якім пералічаны 86 выдатных асоб. У яшчэ адным зборніку біяграфій «Сармацкія ваяры» (1631) С. імкнуўся паказаць вял. постаці продкаў, каб абудзіць у сучаснікаў мужнасць і інш. дабрачыннасці. Тут, каб паказаць сувязь Рэчы Паспалітай са Стараж. Руссю і ВКЛ, змешчаны біяграфіі кіеўскага кн. Уладзіміра Святога, вял. кн. Вітаўта, А.Дашкевіча, П.Канашэвіча-Сагайдачнага, Я.К. і Я. Хадкевічаў, К.І.Астрожскага і інш. Крыніцамі для С. былі працы Я.Длугаша, М.Кромера, М.Бельскага, М.Стрыйкоўскага і інш. У працы «Польшча» (1632) С. даў геаграфічныя нарысы і апісаў жыццё жыхароў Вял. і Малой Польшчы, Літвы, Русі (Беларусі і Украіны), Прусіі, Памор'я, Мазоўша, Жамойці, Інфлянтаў, назваў мясцовасці, знакамітыя сваімі помнікамі і архітэктурнымі аб'ектамі, паказаў характар жыхароў, іх адзенне, ежу, прывілеі шляхты,



Ш.**Старавольскі**. «Польшча». 1632. Тытульны ліст.



правы і статуты, сістэму паліт. улады, рэлігіі, прыродныя багацці, войска, і нарэшце моц і слабасць Рэчы Паспалітай. Тагачасны стан дзяржавы С. адлюстраваў у творах «Польскі шляхціц» (1628), «Правы рыцар» (1648), «Рэфармацыя звычаяў» (1650) і інш. Выдаў унікальны збор эпітафій з усёй Рэчы Паспалітай «Надмагіллі сарматаў» (1655). Сярод інш. твораў «Прамова на смерць Яна Караля Хадкевіча» (1622), «Кароткі выклад сабораў як усяленскіх, так і памесных, шануемых грэчаскай і лацінскай цэрквамі» (1654), «Жыцці кракаўскіх біскупаў» (1654).

*Тв.*: Setnik pisarzów polskich albo pochwały i żywoty stu najznakomitszych pisarzów polskich. Kraków, 1970; Wybór z pism. Wrocław etc., 1991.

*Літ.*: Bielak F. Działalność naukowa S.Starowolskiego // Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Warszawa, 1957.

***Альбіна Семянчук.***

**Старадубскае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе, удзельнае княства на тэрыторыі *Северскай зямлі*. Цэнтр — г. Старадуб. Утварылася пасля 1454, калі прагнаны маскоўскім вял. князем Васілём Цёмным са свайго ўдзелу мажайскі кн. Іван Андрэевіч (гл. ў арт. *Мажайскія*) знайшоў прытулак у ВКЛ і атрымаў ад Казіміра IV у вотчыну Старадуб і Гомель. Наданне Івану Андрэевічу Старадуба было невыпадковым. Яго бацька Андрэй Дзмітрыевіч (сын Дзмітрыя Данскога) у 1403 ажаніўся з дачкой старадубскага кн. Аляксандра Патрыкеевіча Аграфенай. Яшчэ ў 1448 праз свайго цесця Фёдара Львовіча Варатынскага кн. Іван Андрэевіч абяцаў Казіміру IV, што калі той дапаможа яму авалодаць маскоўскім прастолам, то будзе падпарадкоўвацца літоўскаму гаспадару, заключыць з ім ваенны саюз і аддасць Ржэву і Мядынь. Разам з інш. выгнанцам з Масквы кн. Іванам Бароўскім, сынам Васіля Яраславіча Серпухаўскага каля 1461—62 Іван Андрэевіч дамаўляўся дамагацца вяртання сваёй вотчыны, для сябе — маскоўскага прастола, вызвалення Васіля Серпухаўскага і пераразмеркавання маскоўскіх уладанняў. Паступова да С.к. дадаваліся яшчэ гарады і валасці: у 1465 з пэўнымі абмежаваннямі ў валоданні Бранск, у 1496 сыну Івана Андрэевіча Сямёну — Чарнігаў і Карачаў і ў 1499 — Сямёну Хацімль. Неўзабаве пасля смерці Івана Андрэевіча (паміж 1471 і 1483) Бранск з-за пазіцыі яго жыхароў, якія нацярпеліся з-за самавольства Івана Андрэевіча і яго сына Андрэя, быў адабраны ад С.к. (каля 1486). Паўстаўшыя жыхары Бранска забілі сына кн. Андрэя Іванавіча Фёдара. З гэтага часу Бранскам кіравалі велікакняжацкія намеснікі. Паступова С.к. набыло значную самастойнасць. Старадубскія князі мелі свой двор, баяр, нават вял. ваенныя фарміраванні (палкі). У 1499 кн. Сямён Іванавіч Мажайскі пачаў тайныя кантакты з вял. князем маскоўскім Іванам III. Абяцанні захаваць за князем Сямёнам усе здабытыя ім у ВКЛ уладанні спрыялі здрадзе. Пасля заняцця Якавам Захар'іным Кошкіным Бранска 3.5. 1500 кн. Сямён Мажайскі прысягнуў Івану III. Пры пераходзе пад маскоўскую ўладу кн. Сямён захапіў Любеч (яшчэ ў 1483 быў вылучаны маскоўскаму выхадцу кн. Васілю Міхайлавічу Вярэйскаму), а пазней атрымаў яшчэ і Хотунь. Са сваімі войскамі кн. Сямён удзельнічаў у захопе Пуціўля, бітве на р. Вядроша. С.к. працягвала існаваць і пад кіраваннем сына Сямёна Мажайскага Васіля Тулупа-Старадубскага (прыкладна з 1505). У 1508 служба Маскве кн. Васіля пацверджана літоўска-маскоўскім дагаворам 1508. У 1417 князь спрабаваў захапіць Ноўгарад-Северскі, але быў выбіты адтуль вярнуўшымся з Масквы кн. Васілём Шамячычам. У 1518 Васіль памёр, а яго ўдзел стаў часткай уладанняў маскоўскага вял. князя Васіля III. Гэтай тэрыторыяй пэўны час кіраваў кн. Сямён Фёдаравіч Курбскі.

*Літ.*: Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Зимин А.А. Витязь на распутье: Феодальная война в России XV в. М., 1991; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Русина О. Сіверська земля у складі Великого князівства Литовського. Київ, 1998.

***Віктар Цемушаў.***

**Старадубскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1-й пал. 17 ст. Цэнтр — г. Старадуб. Створана ў 1625 ў паўд. часткі *Смаленскага ваяводства*. У складзе павета працягвалі існаваць старыя адм.-тэр. адзінкі — уезды: Старадубскі, Почапскі, Трубчэўскі (у 1644 перададзены Расіі). У 1646 да С.п. далучаны Лоеўская і Любецкая вол. Кіеўскага ваяв. (з 1667 яны ў Рэчыцкім пав.). У 1648 С.п. заняты ўкр. казакамі і фактычна перастаў існаваць. Выгнанцы-шляхціцы (*эгзулянты*) перасяліліся на інш. месцы, захавалі павятовыя пасады, такім чынам фармальна павет працягваў існаваць. Старадубская шляхта збіралася на сойміку ў розных месцах, пакуль сойм 1667 не вызначыў для гэтага Вільню. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* Старадубшчына засталася ў складзе Расіі. У 1670 для надзялення старадубскай шляхце вылучаны Ожскае (Гожскае) староства і Клейвы ў Гарадзенскім пав., Пашырвінцкае староства ў Ковенскім пав., Уцянскае староства ў Вількамірскім пав. З 1777 старадубская шляхта збіралася на сойміку ў Жыжморах у Троцкім пав.

*Літ.*: Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 4. Ziemia smoleńska i województwo smoleńskie. XIV—XVIII wiek. Warszawa, 2003.

**старажоўшчына**, феадальная павіннасць сялян ВКЛ: выкананне розных работ, як правіла, у залік *паншчыны* непасрэдна ў панскай сядзібе. Звычайна сяляне вылучалі на С. пачаргова па 2—4 чал.

**«Старажытныя дакументы па гісторыі Польшчы, Літвы і суседніх краін»** («Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia»), археаграфічнае выданне дакументаў з Ватыканскага архіва па гісторыі Польшчы і ВКЛ 11—18 ст. Падрыхтавана гісторыкам царквы А.Тайнерам, выдадзена ў 4 тамах у Рыме ў 1860—64. Змешчаны лісты рымскіх пап да каралёў Польшчы і вял. князёў ВКЛ, вял. магістраў Нямецкага ордэна, біскупаў, абатаў і інш. асоб у гэтых краінах, інструкцыі папскім нунцыям у Польшчы і Рэчы Паспалітай і рэляцыі ад іх у Рым, лісты ад манархаў і інш. асоб да рымскіх пап, матэрыялы справаводства Рэчы Паспалітай па рэліг. пытаннях. Матэрыялы выдання асвятляюць становішча каталіцкай царквы ў Польшчы і ВКЛ, увядзенне і ўмацаванне каталіцтва ў Літве, міжнар. адносіны ВКЛ, у т.л. з Рымам, Свяшчэнні Рымскай імперыяй, Нямецкім і Інфлянцкім ордэнамі, Расіяй, адносіны паміж канфесіямі ў ВКЛ, падрыхтоўку



і правядзенне уніі паміж каталіцкай і правасл. цэрквамі, рэліг. барацьбу ў Рэчы Паспалітай у 16— 18 ст., дзейнасць Радамскай, Барскай, Слуцкай, Тарунскай, Таргавіцкай і інш. канфедэрацый. Усяго надрукавана каля 3 тыс. дакументаў, у асноўным на лацінскай, а таксама італьянскай і французскай мовах. Большасць крыніц надрукавана ўпершыню. Дакументы размешчаны ў храналагічным парадку. Паказаны архіўныя шыфры, але археаграфічныя каментарыі адсутнічаюць. Змешчаны геаграфічна-імянныя паказальнікі.

*Валерый Пазднякоў.*

**староста**, 1) у ВКЛ у 16—18 ст. службовая асоба, якая кіравала адміністрацыйнай акругай (паветам), намеснік вялікага князя (караля). Першапачаткова ажыццяўляў у акрузе поўную дзярж. і судовую ўладу. З узмацненнем у 16 ст. шляхецкага самакіравання і судаводства ў кампетэнцыі С. застаўся толькі *гродскі суд* (гродавы С.). Прызначаў сабе намесніка — *падстаросту*. На сойме 1774 пастаноўлена, каб гродавыя С. выбіраліся ў паветах. Чатырохгадовы сойм 1788—92 скасаваў суд. С. 3) У ВКЛ у 16—18 ст. С. нягродавы — дзяржаўца каралеўскіх маёнткаў (*старостваў*), звычайна пажыццёвы. Не меў адм.-судовых функцый, карыстаўся даходамі з маёнтка, у дзярж. скарб выплачваў *кварту* на ўтрыманне войска. Атрымліваў староства ад манарха і сойма як узнагароду «за публічныя заслугі».

*Літ.*: Wejnert A. O starostwach w Polsce do końca XVIII w. z dołączeniem wykazy ich miejscowości. Warszawa, 1877.

**староства**, дзяржаўны маёнтак у ВКЛ у 16—18 ст., які даваў вял. князь (кароль) на часовае карыстанне феадалам за службу. Гродавыя С. прыпісваліся да судова-адм. цэнтраў — замкаў і складалі кармленне дзярж. службовых асоб — *старостаў*. Нягродавыя С. даваліся на пажыццёвае карыстанне як узнагарода за паслугі вял. князю ці дзяржаве, а таксама здаваліся ў арэнду за пэўную гадавую плату ці ў залог за грашовую пазыку. З 1562 уладальнікі С. ўносілі ў дзярж. скарб на ўтрыманне войска *кварту* — 1/4 частку чыстага даходу. З 1775 кварта падвоена. Перыядычна праводзіліся рэвізіі (люстрацыі) С. Феадалы імкнуліся як мага даўжэй пратрымаць С. ў сваім родзе, пераўступалі яго (са згоды вял. князя) пры жыцці членам сваёй сям'і ці пабочным асобам за плату. Вял. князі выкарыстоўвалі права раздачы С. у паліт. мэтах (вербавалі сабе прыхільнікаў). Шляхта вяла барацьбу за абмежаванне гэтага права. У 1775 сойм забараніў раздачу С., і яны павінны былі здавацца ў спадчынную арэнду на 50 гадоў. Да 1791 удзельная вага С. сярод зямельных уладанняў на Беларусі (без усх. часткі) складала 8%. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай С. ўвайшлі ў склад дзярж. маёнткаў. Пазней некаторыя з іх, асабліва ва ўсх. частцы Беларусі, былі падараваны рас. дваранам.

*Павел Казлоўскі.*

**Старасціна** (Старостина) Іна Паўлаўна (н. 27.4.1939, пас. МТС Загорскага р-на Маскоўскай вобл., Расія), расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1986). Скончыла Маскоўскі гіст.-архіўны ін-т (1961). У 1961—62 там працавала, у 1964—69 — ва Ун-це дружбы народаў імя П.Лумумбы, з 1969 — у Ін-це рас. гісторыі Рас. АН (з 1992 старшы навук. супрацоўнік). Даследуе гісторыю ВКЛ і Стараж. Русі. Удзельнічала ў выданні трактата «Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў» Міхалона Літвіна (Масква, 1994), кн. «Мазурынская кормчая — помнік межславянскіх культурных сувязей XIV—XVI стст.» («Мазуринская кормчая — памятник міжславянских культурных связей XIV—XVI вв.», Масква, 2002).

*Тв.*: Некоторые особенности развития права восточнославянских земель в Великом княжестве Литовском // Россия, Польша и Причерноморье в XV—XVIII вв. М., 1979; К вопросу об эволюции права Великого княжества Литовского в конце XV—начале XVI вв. // Первый Литовский статут 1529 г. Вильнюс, 1982; К вопросу об отражении в III Литовском статуте 1588 г. прогрессивных идей литовского правотворчества XV в. // Третий Литовский статут 1588 г. Вильнюс, 1989; Судебник Казимира 1468 г. // Древнейшие государства на территории СССР, 1988—1989. М., 1991; Право Великого княжества Литовского в контексте культурно-исторических связей Польши, Литвы и Руси // Восточная Европа в исторической ретроспективе. М., 1999; Применение новеллы Юстиниана в судебном деле 1538 г. Литовской Метрики // Z dziejów kultury prawnej. Warszawa, 2004.

**старац**, выбарная асоба валаснога самакіравання на тэрыторыі Беларусі да 2-й пал. 16 ст. Існавалі С. ўсёй *валасці* — пасрэднікі паміж яе насельніцтвам і феад. уласнікам або яго прадстаўніком і С. асобных вёсак. С. разам з *грамадой* раскладалі павіннасці на канкрэтных выканаўцаў і сачылі за іх выкананнем, збіралі і адвозілі гаспадару ўладання *даніну* (грашовую, мядовую, бабровую, кунічную і г.д.), падтрымлівалі парадак, сачылі за станам дарог, мастоў і інш. С. выбіраліся на агульных сходах вёскі, валасці і за выкананне сваіх абавязкаў вызваляліся ад павіннасцей, акрамя мядовай даніны. Удзельнічалі ў *копных судах*, судзілі межавыя і бортныя справы паміж сялянамі. У спрэчках з трымальнікамі ўладання выступалі як абаронцы грамады. У выніку змен сістэмы гаспадарання ў 16—пач. 17 ст. С. замяняліся *войтамі*. На ўсх. Беларусі пасада С. захавалася на больш працяглы час, у 17—18 ст. назва «С.» тут была сінонімам «войта», у дзярж. уладаннях С. часта называлі войтаў цэлай валасці.

*Аляксандр Доўнар.*

**старожа**, гл. *Варта начная*.

**старцы**, лірнікі, бедныя сяляне (часта старыя, інваліды, адсюль інш. назва — сляпцы) альбо манахі (дзякі), якія стала альбо часова (звычайна ўзімку) жабравалі, спяваючы па дварах песні, часам у суправаджэнні музычнага інструмента — ліры, кобзы, бандуры. У Польшчы называліся дзяды, у Расіі — калікі перахожыя (таксама страннікі, багамолы), ва ўсх. Украіне — кабзары. Вандравалі звычайна па вёсках, дварах шляхты і магнатаў, збіраліся каля храмаў і манастыроў, у дні кірмашоў і свят — у мястэчках і гарадах. Выконвалі песні духоўнага (*псальмы*) і лірычнага (у т.л. гарэзлівага), радзей эпічнага зместу. Самі песняў не стваралі, а пераймалі ўзоры кніжнай паэзіі, у іх рэпертуар уваходзілі таксама нар. танічныя песні, у т.л. на гіст. сюжэты (ва ўсх. Украіне — думы, казацкія і нявольніцкія песні). Такі занятак узнік у 17 ст. з узмацненнем прыгону і ахопліваў перш за ўсё недзеяздольных членаў сялянскай сям'і (у т.л. дзяцей), якія не маглі выконваць важных відаў працы. Інш. умовай распаўсюджвання занятку С. было ўзмацненне

сярод шляхты і ў народзе рэлігійнасці і ідэй дабрачыннасці ў эпоху контррэфармацыі.

*Літ.*: Боржковский В. Лирники // Киевская старина. 1889. № 9; Noll W. The Social Role and Economic Status of Blind Peasant Minstrels in Ukraine // Harvard Ukrainian Studies. 1993. Vol. 17. № 1/2.

***Ігар Клімаў.***

**«старына»**, традыцыі і звычаі, якія ў ВКЛ у значнай ступені рэгулявалі прававое, сацыяльна-эканамічнае, палітычнае становішча пэўных класаў, сацыяльных груп, асоб. Для феадалаў у многіх выпадках «С.» — сінонім даўнасці, якой яны абгрунтоўвалі свае паліт. прывілеі, права на зямлю і сялян. Сяляне і мяшчане атаясамлівалі «С.» са звычаямі, традыцыямі. Найб. выразна гэта прасочваецца на матэрыялах пра змены становішча феад.-залежнага насельніцтва *падняпроўскіх і падзвінскіх гаспадарскіх валасцей* у выніку правядзення там агр. пераўтварэнняў паводле «Уставы на валокі» 1557. Разумеючы «С.» як непарушнае звычайнае права, насельніцтва гэтых мясцовасцей адстойвала традыцыйнае права выбіраць *старцаў*, беспերашкодна гандляваць і, галоўнае, выконваць феад. павіннасці ў здаўна ўстаноўленых формах і памерах. У барацьбе супраць увядзення «навін», якія абцяжарвалі прававое становішча сялян, апошнія выкарыстоўвалі разнастайныя формы барацьбы (скаргі вял. князю, уцёкі ад сваіх гаспадароў, адмаўленне выконваць павіннасці і інш.). Гэта вымушала велікакняжацкую адміністрацыю прымаць пэўныя захады да захавання «С.». Так, у грамаце каралевы Боны, выдадзенай у 1536 жыхарам Усвяцкай і Азярышчанскай валасцей, падкрэслівалася, што «мають они подлуг стародавнего обычая и повинности своее вси тые работы в замку Витебском каждого году робити». Жыгімонт III у Статуце ВКЛ 1588 урачыста абяцаў усім падданым захоўваць у непарушнасці даўнія звычаі, не ўводзіць новых павіннасцей і інш. Аднак як буйны землеўласнік вял. князь не мог не лічыцца з інтарэсамі феадалаў, якія імкнуліся захоўваць ранейшыя павіннасці залежнага ад іх насельніцтва і ўводзіць новыя. Таму некаторыя новаўвядзенні ўносіліся ў граматы і праз пэўны час набывалі сілу «С.».

***Валянцін Голубеў.***

**Старыя Дарогі** (цяпер горад, цэнтр Старадарожскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Слуцкім княстве. Упершыню ўпамінаецца ў 1524 як с. Дарогі ў Глускай воласці. Уласнасць Гальшанскіх, Хадкевічаў, Алелькавічаў, з пач. 17 ст. Радзівілаў. З канца 16 ст. мястэчка на Слуцка-Бабруйскім тракце. У 1668 — 34 двары. Пазней за 6 км на У утварылася аднайменнае паселішча, таму мястэчка атрымала назву С.Д. З 1791 у Случарэцкім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Статкевічы**, Сцянкевічы, Сцянковічы, Стацкевічы, Стацковічы, шляхецкі род герба «Касцеша». Родапачынальнік — Сцецка Пятровіч, гаспадарскі дваранін, войт магілёўскі і слуцкі (15 ст.). Меў сына Ждана, які валодаў Любавічамі, Чаркасавам і Расоснаю, унукаў Хаму, Яўмена і Андрэя, ротмістра і двараніна вял. кн. Казіміра. Найб. вядомыя:

Іван Андрэевіч (?—1554), сын Андрэя Жданавіча. Падскарбі надворны ВКЛ.

Багдан Іванавіч (?—да крас. 1586), сын Івана Андрэевіча. Староста кокенгаўзенскі, падчашы ВКЛ у 1558—72, маршалак гаспадарскі з 1572, маршалак браслаўскі. Атрымаў ад вял. князя маёнтак Заверцы ў Ашмянскім пав., адсюль прадстаўнікі роду ўжывалі прозвішча Статкевіч-Заверскі.

Вільгельм (?—1616), сын Багдана Іванавіча. Падкаморы браслаўскі ў 1613. Валодаў значнымі маёнткамі: Дайнова ў Ашмянскім пав., Любавічы і Сяменічы ў Мсціслаўскім ваяв., Расосна, Чаркасава і Вусце ў Аршанскім пав., Прылукі ў Менскім пав., Масіры і Чэсніцы ў Навагародскім пав.

Крыштоф (?—да 1652), сын Вільгельма. Ротмістр, староста азярышчанскі, падкаморы браслаўскі. Вызначыўся ў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* пры абароне Азярышчанскага замка ў 1654.

Багдан (?—1651), сын Вільгельма. Падкаморы мсціслаўскі ў 1630—44, кашталян мсціслаўскі ў 1644—46 і навагародскі з 1646. Актыўна выступаў у абарону праваслаўя. Разам з жонкай Аленай Багданаўнай Саламярэцкай заснаваў *Баркулабаўскі Узнясенскі манастыр, Буйніцкі Святадухаўскі манастыр, Куцеінскі Богаяўленскі манастыр, Куцеінскі Успенскі манастыр*, фінансаваў дзейнасць *Куцеінскай друкарні*.




Да арт. **Статкевічы**.
Герб Б.В.Статкевіча з кнігі «Евангелле вучыцельнае». 1637.

Ян (1601—34), сын Вільгельма. Харужы ашмянскі, удзельнік бітваў пад Хацінам (1621) і Смаленскам (1633—34).

Ян (?—1660), сын Яна. Каралеўскі дваранін, кашталян навагародскі з 1652.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Статут Вялікага княства Літоўскага 1529**, Першы Статут Вялікага княства Літоўскага, звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў у ВКЛ у сярэдзіне 16 ст. Падрыхтаваны на аснове кадыфікацыі і сістэматызацыі норм мясц. звычаёвага права, пастаноў судовых і дзярж. устаноў, *Судзебніка 1468*, прывілеяў. Статут склала камісія пад кантролем канцлера ВКЛ А.*Гаштольда* (ёсць меркаванні, што ў складанні і рэдагаванні Статута прымаў удзел Ф.*Скарына*). Пры распрацоўцы Статута 1529 упершыню вырашаны шэраг складаных тэарэтычных і практычных задач: выпрацавана сістэма і структура размяшчэння прававых норм у залежнасці ад іх зместу, уключаны тыповыя і абагульненыя нормы; дадзена дакладная рэдакцыя кожнага артыкула; уведзена шмат новых прававых норм, у якіх адлюстраваны тагачасныя таварна-грашовыя адносіны; уключаны нормы дзярж., адм., грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, судова-працэсуальнага і інш. галін права. Складальнікі Статута не прытрымліваліся

сістэмы кадыфікацыі, прынятай у рымскім праве, а выпрацоўвалі сваю. У яе аснове закладзены новыя прынцыпы: суверэннасць дзяржавы (насуперак сярэдневяковаму касмапалітызму), адзінства права, прыярытэт пісанага права. Статут уключаў нормы агульнага права і спец. нормы, якія забяспечвалі прывілеі пануючаму класу або яго групам. Гэтыя нормы былі не выключэннем, а састаўной часткай у сістэме Статута 1529, хоць і супярэчылі яго асн. прынцыпам.

Статут уведзены ў дзеянне 29.9. 1529. Складаецца з 13 раздзелаў і 244 артыкулаў. Пазней у яго ўнесены дапаўненні, у выніку колькасць артыкулаў павялічылася да 283. У 1—3-м раздзелах змешчаны ўасн. нормы дзярж. права і прынцыповыя палажэнні інш. галін права, у 4-м і 5-м — шлюбна-сямейнае, апякунскае і спадчыннае, у 6-м — судова-працэсуальнае, у 7-м — крымінальнае, у 8-м — зямельнае, у 9-м — лясное і паляўнічае, у 10-м — цывільнае, у 11—13-м — крымінальнае і крымінальна-працэсуальнае права. У статуце 1529 юрыдычна замацаваны асновы грамадскага і дзярж. ладу, прававое становішча класаў, саслоўяў



**Статут Вялікага княства Літоўскага 1529**. Альшэўскі спіс на польскай мове. 1550.





**Статут Вялікага княства Літоўскага 1529**. Спіс Замойскіх на беларускай мове.

і сац. груп насельніцтва, парадак утварэння, склад і паўнамоцтвы некаторых органаў дзярж. кіравання і суда. Абвяшчалася правіла, паводле якога ўсе асобы, «як убогія, так і багатыя», павінны былі судзіцца паводле норм, выкладзеных у Статуце. Вял. князь абавязаўся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць чужаземцаў на дзярж. пасады ВКЛ, не даваць ім маёнткаў, не адбіраць у мясц. феадалаў пасады і маёмасці без суда, прытрымлівацца ўсіх старых законаў і звычаяў. Асаблівая ўвага ў Статуце аддавалася судова-працэсуальнаму праву. Абвяшчаўся прынцып публічнасці правасуддзя, фармальнай роўнасці бакоў у працэсе, права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката. Адначасова ў Статуце абвяшчалася захаванне прывілеяў і льгот для феадалаў, што на практыцы замацоўвала бяспраўе простых людзей і захоўвала паўнату правоў толькі для феадалаў. Аднак у перыяд феадалізму нават такое абвяшчэнне ідэі правапарадку было значным крокам наперад. Ідэі гуманізму паўплывалі на нормы крымінальнага і цывільнага права, выкладзеныя ў Статуце 1529 і наступных Статутах. Так, у Статуце 1529 (раздз. 1, арт. 7) абвяшчалася, што ніхто не павінен адказваць за чужую віну, а крымінальнае пакаранне трэба назначаць толькі асобам, віна якіх устаноўлена судом. У арт. 27 раздз. 7 прадугледжаны тэрмін крымінальнага праследавання: за найб. цяжкае злачынства — 10 гадоў, менш цяжкае — 3 гады. У арт. 7 раздз. 11 зроблена спроба абмежаваць халопства. Вольны чалавек за здзейсненае злачынства не павінен быў аддавацца ў вечную няволю. У Статуце даволі поўна выкладзены нормы, якія забяспечвалі права ўласнасці феадалаў. Шмат увагі адда-



**Статут Вялікага княства Літоўскага 1529**. Лаўрэнцьеўскі спіс на лацінскай мове. 1531.



валася шлюбна-сямейнаму праву. Змяшчаліся нормы, якія вызначалі маёмасныя правы жанчын і дзяцей, парадак выдачы дзяўчат замуж. Абвяшчалася абяцанне вял. князя не выдаваць замуж прымусова, а толькі з іх згоды. Падрабязна рэгламентаваўся парадак назначэння апекуноў непаўналетнім дзецям, якія засталіся без бацькоў. Статут напісаны на бел. мове, мае важнае значэнне як помнік прававой культуры і мовы бел. народа, дае магчымасць вывучаць лексіку і стыль, дзярж.-прававую тэрміналогію таго часу. Нормы дзярж. права, выкладзеныя ў Статуце, у сваёй сукупнасці складалі своеасаблівую феад. канстытуцыю, у якой упершыню вызначалася структура і характар дзейнасці органаў дзярж. улады, замацоўваліся асн. правы і прывілеі пануючага класа і саслоўя шляхты. Статут 1529 адыграў значную ролю ў далейшай кадыфікацыі і сістэматызацыі права. Як і *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*, паслужыў базай і крыніцай для распрацоўкі *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*. Вядомы пераклады Статута 1529 на лацінскую (1530) і польскую (1532) мовы. Захаваліся 4 спісы на старабел. мове: Фірлееўскі, Замойскіх, Дзялынскіх, Слуцкі; 2 спісы на лацінскай мове: Лаўрэнцьеўскі, або Пфорцкі, Пулаўскіх; 1 спіс на польскай мове — Альшэўскі (Свідзінскі і Вастрабрамскі спісы загінулі ў 1944). Упершыню Статут 1529 надрукаваны ў 1841 у Познані ў *«Зборы літоўскіх законаў з 1389 да 1529»* (лацінскім шрыфтам), у 1854 — кірыліцай у Маскве. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 153.

*Публ.*: Старый Литовский Статут 1529 г. // Временник Московского о-ва истории и древностей российских. М., 1854. Кн. 18; Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960; Лазутка С., Гудавичюс Э. Первый Литовский Статут. [Т.] 1, ч. 1—2, [т.] 2, ч. 1. Вильнюс, 1983—91; Лазутка С., Валиконите И., Гудавичюс Э. Первый Литовский Статут (1529 г.). Вильнюс, 2004.

*Літ.*: Барысёнак С. Нацыянальны характар Літоўскага Статута 1529 г. // Полымя. 1927. № 6—7; Пичета В.И. Литовский Статут 1529 г. и его источники // Пичета В.И. Белоруссия и Литва, XV—XVI вв. М., 1961; Крапивин П.Ф., Чернецкая Ю.И. О рукописях и изданиях первого Литовского Статута // Славянский архив. М., 1959; Первый Литовский Статут 1529 г.: Материалы респ. науч. конф. Вильнюс, 1982; Юхо I. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; Улашчык М. Першы Літоўскі Статут: (3 гісторыі знаходак рукапісаў і іх вывучэння) // Бел. гіст. агляд. 1996. Сш. 1; Лазутка С. Літоўскія статуты (1529, 1566, 1588), іх стваральнікі і эпоха // Край=Kraj. 2001. № 1—2.

*Язэп Юхо.*

**Статут Вялікага княства Літоўскага 1566**, Другі статут Вялікага княства Літоўскага, звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў у Беларусі і Літве ў 1566—88, а на Правабярэжнай Украіне і ў 17—18 ст. Асн. крыніцы Статута 1566: агульназемскія і абласныя прывілеі, *Судзебнік 1468*, *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529* і некаторыя нормы звычаёвага права; выкарыстаны таксама нормы царк. (рымска-каталіцкага і грэка-правасл.) права. У ім былі спалучаны тэарэтычныя распрацоўкі мясц. права з практычнай дзейнасцю і тэарэтычнымі асновамі рымскага і зах.-еўрапейскага права. Для падрыхтоўкі Статута ў 1551 меркавалася стварыць камісію з 10 чал. (5 католікаў, 5 праваслаўных), але былі вызначаны імёны толькі 5 католікаў. Невядома, ці была створана такая камісія, бо з тэксту *Бельскага прывілея 1564* вынікае, што праект Статута рыхтавала інш. камісія: «особы певные, рады наши, маршалкове, врадники земские, хоружие и иные особы ряду и народу шляхецкого, доктори прав чужоземских, которые заседши не одно поправили тот старый, але теж новым кшталтом некоторые розделы звлаща судовый, за засаженьем новым обычаем суду и порадку судового то становили и написали». Працай гэтай камісіі кіраваў канцлер М.*Радзівіл* Чорны, у ёй удзельнічаў маршалак дворны А.Б.*Валовіч*, відаць, П.*Раізій*, А.*Ратундус* і інш. Праект Статута аддадзены сойму на папярэдні разгляд у 1561, зацверджаны толькі 1.7.1564, меркавалася ўвесці яго ў дзеянне з 11.11.1564. Аднак з-за спрэчак па асобных артыкулах набыў законную сілу з 1.3.1566, некаторыя змены ўнесены ў яго прывілеем 1.7.1566. У Статут былі ўпісаны *Віленскі прывілей 1563*, Бельскі прывілей 1564, *Віленскі прывілей 1565*. У Статуце 1566 захавана з невял. зменамі структура Статута 1529. У ім 14 раздзелаў і 367 артыкулаў. Першыя 3 раздзелы ахопліваюць нормы дзярж., ваеннага, адм. права, 4-ы — судовы лад і судовы працэс, 5—6-ы — сямейнае і апякунскае права, 7—9-ы — цывільнае права, 10-ы — лясное і паляўнічае права, 11—14-ы — крымінальнае права. Найб. істотныя змены ўнесены ў нормы дзярж., судова-працэсуальнага і цывільнага права. Статут 1566 замацаваў асн. прынцыпы права: адзінства права для грамадзян, хоць яно не было роўным для ўсіх, дзярж. суверэнітэт (насуперак царк. касмапалітызму), абмежаванне ўлады гаспадара (вял. князя), прыярытэт пісанага права. Упершыню намячалася аддзяленне суда ад органаў улады і кіравання. Для гэтага ствараліся *земскія суды* і *падкаморскія суды*. Больш поўна рэгламентавалася кампетэнцыя органаў дзярж. улады і кіравання, якія былі заснаваны на агульных прынцыпах феад. права: стварэнне льгот і перавага для класа феадалаў і саслоўя шляхты, недапушчэнне простых людзей у органы кіравання, замацаванне прававой няроўнасці розных сац. груп насельніцтва. Складальнікі Статута надалі яго нормам аднастайную і сучасную, на той



**Статут Вялікага княства Літоўскага 1566**. Віцебскі спіс.

час, форму і прававую тэрміналогію (беларускую), зразумелую для большасці насельніцтва, што спрыяла ўмацаванню сярод шляхты і мяшчан павагі да закона і дзяржавы.

Кіраўніком дзяржавы і гал. асобай ва ўсёй сістэме дзярж. органаў прызнаваўся вял. князь, які ў Статуце называецца «господарем». Яго прававое становішча тыповае для абмежаванага феад. манарха, але былі і некаторыя асаблівасці. Паўнамоцтвы вял. князя грунтаваліся на выбарным пачатку, яны рэгламентаваліся прававымі нормамі Статута 1566. Ён не меў права без рашэння сойма пачынаць вайну, устанаўліваць падаткі на ваен. патрэбы (раздз. 2, арт. 2), выдаваць законы (раздз. 3, арт. 12). Вял. князь абавязваўся «всих князей и панов-рад, як духовных, так и свецких, и всех врядников земских и дворных, панов хоруговных, шляхту, рыцарство, мещане и всих людей посполитых у Великом князстве Литовском... заховати при свободах и вольностях» (раздз. 3, арт. 2). Важнае значэнне меў артыкул, які забараняў даваць маёнткі, пасады, чыны і званні чужаземцам, у т.л. ўраджэнцам Польшчы (раздз. 3, арт. 9). Статут 1566 заканадаўча замацаваў прывілеі і гал. ролю буйных феадалаў у дзяржаве. Паводле арт. 5-га раздз. 3-га, на вальны (агульны) сойм запрашаліся князі, паны, маршалкі і інш.службовыя асобы. Інтарэсы буйных феадалаў забяспечваў арт. 10-ы гэтага ж раздзела, паводле якога ў адпаведнасці з даўнімі звычаямі захоўваліся і ўсе прывілеі, пасады, чыны і званні феадалаў. У Статуце 1566 акрэслены пераход ад феад. права ўласнасці да буржуазнага. Артыкул 1-ы раздз. 7-га даваў усім феадалам права вольна распараджацца сваімі маёнткамі. Паўней выкладзены і нормы спадчыннага права (8-ы раздзел). Істотныя змены ўнесены ў крымінальнае права. Суб'ектам злачынства прызнаваўся толькі чалавек. Непаўналетнія маглі быць пакараны толькі пасля 14 гадоў (раздз. 14, арт. 8). Абвяшчалася прэзумпцыя невінаватасці (раздз. 14, арт. 2). Крымінальнае пакаранне павінна было ажыццяўляцца толькі паводле суда, а асоба, якая абвінаваціла каго-небудзь у злачынстве і не даказала яго віны, павінна была быць пакарана так, як мог быць пакараны абвінавачаны ёю (раздз. 1, арт. 2). Статут напісаны на старабел. мове, быў перакладзены на лацінскую і польскую мовы. Выяўлена 58 спісаў Статута 1566, з іх 13 на старабел., 40 на польскай і 5 на лацінскай мовах. Упершыню надрукаваны ў 1855 у Маскве.

*Публ.*: Статут Великого княжества Литовского 1566 г. [и поправы статутовые 1578 г.] // Временник Московского о-ва истории и древностей российских. М., 1855. Кн. 23; Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года. Мн., 2003.

*Літ.*: Подозерская Г.Ф. Второй Литовский Статут: (К истории его составления) // Ист. зап. 1945. № 17; Пичета В.И. Земельное право в статутах 1529 и 1566 г. // Пичета В.И. Белоруссия и Литва. XV—XVI вв. М., 1961; Юхо І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; Bardach J. Statuty litewskie a prawo rzymskie. Warszawa, 1999.

***Язэп Юхо.***

**Статут Вялікага княства Літоўскага 1588**, Трэці статут Вялікага княства Літоўскага, звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў у ВКЛ з 1589, а пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі — у Віцебскай і Магілёўскай губ. да 1831, у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ. да 1840. Пасля таго як быў прыняты *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*,



**Статут Вялікага княства Літоўскага 1588**. Тытульны ліст.



CZWARTY.

ROZDZIAŁ CZWARTY,

ARTIKUL I.

**Статут Вялікага княства Літоўскага 1588**. Пераклад на польскую мову.

кадыфікацыйная работа не спынілася. Ужо на Берасцейскім сойме 1566 было папраўлена некалькі артыкулаў. Праз 2 гады Гарадзенскі сойм унёс папраўкі ў некаторыя артыкулы і стварыў камісію для дапрацоўкі Статута. Камісія для выпраўлення Статута была выбрана і на Люблінскім сойме 1569. Крыніцы для распрацоўкі Статута 1588 — Статуты ВКЛ 1529 і 1566, соймавыя пастановы 1573, 1578 (гл. *Папраўы статутовыя 1578*), 1580 і 1584, прывілеі, пастановы павятовых соймікаў. Да канца 1584 работа над Статутам была скончана, але ў сувязі з тым, што ён ігнараваў акт *Люблінскай уніі 1569*, прадстаўнікі Польшчы не дапускалі яго зацвярджэння на агульным сойме Рэчы Паспалітай. Каб захаваць велікакняжацкі трон, Жыгімонт III Ваза зацвердзіў Статут сваім прывілеем 28.1.1588.

Статут 1588 падрыхтаваны на высокім тэарэтычным узроўні кваліфікаванымі прававедамі пад кіраўніцтвам канцлера ВКЛ А.Б.*Валовіча* і падканцлера Л.І.*Сапегі*. У Статут увайшлі нормы дзярж. (канстытуцыйнага) права, чаго на той час не было ў заканадаўчай практыцы інш. еўрапейскіх дзяр-



жаў. Ён абагульніў тагачасныя дзярж.-прававыя ідэі, некаторыя з іх апярэджвалі свой час. У Статуце знайшла адлюстраванне тэорыя падзелу ўлад на заканадаўчую (сойм), выканаўчую (вял. князь, адм. апарат) і судовую (Трыбунал ВКЛ, земскія і падкаморскія суды, выбарныя і незалежныя ад адміністрацыі). Статут 1588 мае 14 раздзелаў і 488 артыкулаў. У 1—4-м раздзелах змешчаны нормы дзярж. права і судовага ладу, у 5—10-м і часткова ў 13-м — шлюбна-сямейнага, зямельнага і цывільнага права, у 11—12, 14-м і часткова ў 13-м — крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права. Ідэі Рэфармацыі і верацярпімасці замацаваны ў арт. 3-м раздз. 3-га, паводле якога вял. князю і ўсім дзярж. органам прадпісана забяспечваць спакой усіх жыхароў дзяржавы, незалежна ад таго, якога вучэння яны прытрымліваюцца ў хрысціянскім веравызнанні (акт *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*). Ідэі гуманізму адбіліся і на нормах крымінальнага, цывільнага права. Так, у пэўнай ступені гарантаваліся маёмасныя і асабістыя правы мяшчан. Кожны вольны чалавек мог пры жаданні выехаць за мяжу, калі гэта рабілася не на шкоду сваёй краіне. Статут юрыдычна замацоўваў тыя фактычныя адносіны, якія склаліся паміж ВКЛ і Польшчай пасля 1569, але абавязаў урад вярнуць адлучаныя ад княства землі, забараняў назначаць на дзярж. пасады і надзяляць зямлёй «чужаземцаў і загранічнікаў», у т.л. і падданых Польшчы, захаваў адасобленасць дзярж. устаноў, арміі, заканадаўства, эканомікі і фінансаў ВКЛ. Уладаром дзяржавы прызнаваўся вял. князь, названы ў Статуце «господарем». Але многія яго паўнамоцтвы былі абмежаваны і выконваць іх ён мог толькі са згоды сойма, вышэйшых дзярж. службовых асоб. Статут замацаваў феад. грамадскі лад, наяўнасць 2 асн. класаў: феадалаў і феадальна-залежных сялян. Асабліва былі вылучаны князі, паны радныя і паны харугоўныя, якія мелі права судзіць не толькі простых людзей, але і залежную ад іх шляхту, даваць ёй у часовае карыстанне землі, маёнткі, а таксама адбіраць гэтыя маёнткі, нягледзячы на даўнасць уладання імі (раздз. 3, арт. 30). Статут рэгламентаваў таксама некаторыя правы і абавязкі простых людзей і прадстаўнікоў этнічных груп (сялян, слуг, чэлядзі, мяшчан, рамеснікаў, яўрэяў, татараў). Ён абараняў інтарэсы буйных і сярэдніх феадалаў і ўзмацняў іх прывілеяванае становішча, канчаткова запрыгоніў сялян. Для шляхты Статут прадугледжваў адказнасць за забойства простага чалавека, забараняў перадачу ў няволю вольнага чалавека за даўгі або злачынства, абмяжоўваў пакаранне непаўналетніх да 16 гадоў. Хоць Статут дэклараваў, што ўсе простыя людзі разам з феадаламі ўдзельнічаюць у выбранні гаспадара (раздз. 3, арт. 2), аднак простых людзей не дапускалі ў сойм, а іх удзел у паліт. жыцці абмяжоўваўся выключна мясц. валаснымі справамі. Статут 1588 закончыў кадыфікацыю права ў ВКЛ. Гэта выдатны помнік бел. мовы і юрыд. думкі феад. эпохі.

Статут ВКЛ 1588 выкарыстоўваўся пры кадыфікацыі ў канцы 16 ст. прускага права, складанні *Саборнага ўлажэння 1649* у Расіі, афіцыйна незацверджаных укр. зборнікаў «Права, за якими судится малороссийский народ» (2-я чвэрць 18 ст.), «Суд и розправка в правах малороссийских» (1750—58). У заканадаўстве і судах Польшчы, Латвіі, Эстоніі ўжываўся як дадатковая крыніца права. Статут 1588, пераважна ў рэдакцыі 1614, быў гал. пісьмовым зводам дзеючага права на Украіне (у Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губ. дзейнічаў да 1840). У 17—19 ст. перакладзены на рус., укр., нямецкую, французскую, лацінскую мовы.

Статут упершыню надрукаваны на старабел. мове ў 1588 у *Віленскай друкарні Мамонічаў* пад наглядам падканцлера Сапегі. Выданне яго двойчы паўторана (каля 1592—93 і каля 1600) з выхадной датай «1588». У 1614, 1619 і каля 1623 (з датай «1619») Л.Мамоніч выдаў Статут на польскай мове. У 1648 Статут на польскай мове надрукаваў у Варшаве каралеўскі друкар П.Элерт. Наступныя польскамоўныя выданні выйшлі ў *Віленскай акадэмічнай друкарні* ў 1693, 1744, 1786 і ў друкарні А.Марцінoўскага ў Вільні ў 1819. У 1811 Статут у перакладзе на польскую і рус. мовы выдадзены ў С.-Пецярбургу, у 1854 — у Маскве і ў 1938 у Каўнасе на старабел. мове. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 48, 63.

*Публ.*: Статут Великого княжества Литовского 1588 г. [печатанный с мамоничевского издания] // Временник Московского о-ва истории и древностей российских. М., 1854. Кн. 19; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 / Пераклад на сучасную бел. мову А.С.Шагун. Мн., 2002 (2 выд. 2005).

*Літ.*: Пташицкий С.Л. К вопросу об изданиях и комментариях Литовского статута: Ист.-библиогр. справка. СПб., 1893; Яго ж. К истории литовского права после третьего статута. СПб., 1893; Бершадский С.А. Литовский статут и польские конституции: Ист.-юрид. исслед. СПб., 1893; Лаппо И.И. Литовский Статут 1588 г. Т. 1—2. Каунас, 1934—38; Юхо Я. Статуты Вялікага княства Літоўскага // Полымя. 1966. № 11; Бардах Ю. Литовские статуты — памятники права периода Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Яго ж К вопросу об утверждении Литовского статута 1588 г. // Славяне в эпоху феодализма. М., 1978; Яго ж. Statuty litewskie a prawo rzymskie. Warszawa, 1999; Лабынцев Ю.А. «Статут Великого княжества Литовского» 1588 г. — памятник белорусской старопечатной литературы: (К 400-летию выхода в свет) // Сов. славяноведение. 1988. № 5; Третий литовский Статут 1588 г.: Материалы респ. науч. конф. Вильнюс, 1989; Мякишев В. Возвращаясь к проблеме изданий Литовского Статута 1588 г. // Slavia Orientalis. 1997. № 2.

***Язэп Юхо.***

**«Статут Вялікага княства Літоўскага 1588»**, комплекснае выданне, прысвечанае *Статуту Вялікага княства Літоўскага 1588*. Падрыхтавана і выдадзена выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» ў 1989. Уключае: нарыс «Сацыяльна-гістарычныя ўмовы ўзнікнення Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года», дзе раскрыты ўмовы, пры якіх адбывалася падрыхтоўка і ўвядзенне ў дзеянне Статута; арыгінальны тэкст Статута (факсімільнае ўзнаўленне), яго адаптаваны тэкст і пераклад на рус. мову; энцыклапедычны даведнік з 820 артыкулаў; паартыкульны каментарый; тэрміналагічны і імянны паказальнікі. Асн. частка матэрыялаў даведніка — артыкулы пра адм.-тэр. падзел ВКЛ таго часу, катэгорыі насельніцтва, саслоўі, службовыя асобы і пасады, судовы лад, грашовую сістэму, адзінкі вымярэння і інш. Змешчаны артыкулы пра крыніцы Статута і інш. прававыя дакументы і акты 15—16 ст., пра гісторыю падрыхтоўкі і вы-

дання Статута, яго паліграфічныя і мастацкія асаблівасці. Шэраг артыкулаў прысвечаны выкарыстанню, збераганню і гісторыі вывучэння Статута. У каментарыях да артыкулаў Статута разглядаецца прававая сутнасць і гісторыя распрацоўкі кожнай з норм Статута. Выданне прысвечана 400-годдзю Статута, з'яўляецца першай у Беларусі яго поўнай публікацыяй.

**статут земскі**, збор агульнадзяржаўных свецкіх законаў ВКЛ, які замацоўваў асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу, прававое становішча класаў, саслоўяў і сацыяльных груп, прынцыпы арганізацыі і дзейнасці органаў улады і інш. С.з. называлі Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588. Паводле прывілея ад 28.1.1588 тэрмінам «С.з.» вызначаўся таксама «порядок отправованья судов». Вял. князь абавязаў судзіць паводле Статута («тыми одными правы и артыкулы, в том же статуте ниже писаными и от нас даными, судити и справовати маем»). У грамадзянска-прававых спрэчках дзеянне Статута 1588 пашырылася і на самога вял. князя («так же одным правом, яко и подданые наши»). На выпадак прабелаў у праве Статут прадпісваў карыстацца заканадаўствам інш. дзяржаў («А где бы чого в том статуте недостовало, тогды суд прыхиляючыся до ближшое справедливости, водле сумненья своего и прыкладом иншых прав хрестиянских то отправовати и судити маеть»).

***Аляксандр Марыскін.***

**Стаўбцоўскі кляштар дамініканцаў.** Існаваў у 1623—1830 у г. *Стоўбцы*. Заснаваны з дазволу віленскага біскупа Я.Валовіча троцкім ваяводам А.Слушкам з жонкай Соф'яй, якія далі кляштару у якасці фундуша фальваркі Кучкуны і Отцадку і 6 тыс. злотых. Мураваны касцёл св. Казіміра пабудаваны ў 1645, але з-за вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 ён асвячоны толькі у 1673 біскупам М.Слупскім. Касцёл быў 3-нефавы, памерам 15 х 8,5 сажняў, з 2-вежавым фасадам, 2 бакавымі капліцамі і бабінцам. У каменную падлогу былі ўмураваны 13 мармуровых надмагільных пліт, у сцены — мармуровыя эпітафіі 18 ст. У скляпах касцёла хавалі прадстаўнікоў феад. знаці (найперш Слушкаў) і духоўных асоб (у склепе пад капліцай св. Дамініка была труна памерлага у 1644 манаха Фабіяна Малішэўскага, які шанаваўся як святы і да якога прыходзілі паломнікі аж з Украіны). У 1681 удава падскарбія надворнага ВКЛ Б.Ю.Слушкі Г.Патоцкая падаравала кляштару 10 тыс. злотых, на якія, відаць, віленскія скульптары аздобілі інтэр'ер касцёла стукавай лепкай. У 1830 кляштар скасаваны. У 1865 касцёл зачынены, у 1867—83 перабудаваны пад правасл. царкву св. Марыі Магдаліны, у 1958 разбураны. У 2-павярховым жылым корпусе кляштара пасля скасавання размяшчалася нар. жаночае вучылішча (будынак не захаваўся).

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Стафан** Баторый (венг. Istwan Bathory; 27.9.1533, г. Шомліо, Румынія—12.12. 1586), князь трансільванскі [1571—76], кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1576—86]. Паходзіў са стараж. венгерскага роду Баторыяў Шомліо. З 15 гадоў на ваен. службе ў караля Чэхіі і Венгрыі Фердынанда. Разам з ім быў у Італіі, вучыўся ў Падуанскім ун-це. Пазней служыў у трансільванскага князя Яна Сігізмунда Запальяі.



**Стафан** Баторый. Мастак М.Кобер. 1583.



Пячатка **Стафана** Баторыя.

Трапіўшы ў палон да немцаў, каля 3 гадоў займаўся там навукамі, у т.л. вывучаў працы рымскіх гісторыкаў. З 1571, пасля смерці Яна Сігізмунда, князь Трансільваніі. Пасля таго як кароль польскі і вял. князь літоўскі Генрык Валезы ўцёк з Кракава (1574), Б. пры дапамозе магнатаў Збароўскіх і інш. выставіў сваю кандыдатуру на польскі трон. На элекцыйным сойме 15.12.1575, насуперак сенату, які абвясціў каралём Максіміляна II, дробная шляхта абвясціла каралём С. з умоваю, што ён ажэніцца з Ганнай Ягелонкай, 54-гадовай сястрой Жыгімонта II Аўгуста. Каранаваўся ў Кракаве 1.5.1576. Пасля доўгіх перагавораў з прадстаўнікамі ВКЛ і пасля таго, як граматай ад 29.7.1576 прызнаў, што Польшча і ВКЛ з'яўляюцца раўнапраўнымі дзяржавамі ў складзе федэратыўнай дзяржавы, абавязаўся захоўваць самастойнасць ВКЛ, пашыраць яго межы, не прызначаць военачальнікамі ў ВКЛ палякаў, агульныя соймы склікаць па чарзе то ў Польшчы, то ў ВКЛ, С. быў абвешчаны вял. князем літоўскім. У 1579—82 узначальваў войскі Рэчы Паспалітай у *Інфлянцкай вайне 1559—82*. Правёў шэраг паспяховых аперацый, у выніку вярнуў ВКЛ Полацк, захапіў Вял. Лукі. Аблога Пскова скончылася безвынікова, аднак паскорыла заключэнне 10-гадовага *Ям-Запольскага перамір'я 1582* і заканчэнне вайны. Імкнуўся да ўмацавання каралеўскай улады, разам з тым падтрымліваў шляхту. Замест каралеўскага суда зацвердзіў для яе ў якасці вышэйшай судовай інстанцыі шляхецкія выбарныя трыбуналы (для шляхты Польшчы ў 1578, для шляхты ВКЛ у 1581). У 1584 афіцыйна абвяцаў



зацвердзіць папраўкі да Статута ВКЛ 1566. Мяркуюць, што тэкст Статута з папраўкамі, зацверджаны прывілеем Жыгімонта III ад 28.1.1588, напісаны ад імя С. Падтрымліваў каталіцкую царкву і езуітаў, якія выступалі супраць Рэфармацыі і магнатаў-рэфарматараў. Прывілеем ад 1.4.1579 пераўтварыў Віленскі езуіцкі калегіум у акадэмію, даў дазвол на заснаванне езуіцкіх калегіумаў у Полацку (1581), Рызе (1580), Дорпаце (1584). Яму належыць ініцыятыва стварэння езуіцкага калегіума ў Гародні. Імкнуўся да мірнага вырашэння ідэалагічных канфліктаў. Быў звязаны сяброўскімі адносінамі з ваяводам і вальнадумцам К.*Бекешам*. Трымаў рэзідэнцыю ў Гародні. Тут прымаў пасольствы маскоўскае (1581) і англійскае (1584), правёў раду сенатараў для разгляду дамаганняў Швецыі (1582), вырашыў справу жыхароў Рыгі, якія не прынялі грыгарыянскі каляндар. Даў жыхарам Гародні льготы, выдаў прывілей для Гарадзенскай саборнай Прачысценскай царквы, паводле якога на ўтрыманне храма выдзялялася 10 коп грошаў у год. Памёр у Гародні. Пасля смерці С. ўзнікла спрэчка паміж прыдворнымі медыкамі аб прычынах смерці. Каб яе вырашыць, 14.12.1586 у Гародні было праведзена першае на тэрыторыі Усх. Еўропы анатаміраванне. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 19, 163.

*Літ.*: Komornicki S.S. Essai d'une iconographie du Roi Etienne Batory. Kraków, 1935; Wojciechowski J. Stary zamek w Grodnie. Warszawa, 1938.

***Аляксандр Госцеў.***

**стацыя** (ад лац. statio стан, месцазнаходжанне), феадальная павіннасць сялян і мяшчан ВКЛ на ўтрыманне вялікага князя і яго світы ў час выканання ім судова-адміністрацыйных функцый на месцах. Вядома з канца 14 ст., паходзіла ад стараж.-рус. палюддзя. У час знаходжання вял. князя ў валасцях яму дастаўлялася С. натурай — ялавічына, бараніна, свініна, свойская птушка, авёс, сена, мёд, піва і інш. Пазней С. аформілася як пастаянны збор прадуктаў незалежна ад прыездаў вял. князя (у Віленскім і Троцкім ваяв. у пач. 16 ст.), пасля яна пераводзілася на грошы. *«Устава на валокі» 1557* канчаткова вызначыла памеры С. з сялян: 1 ялавіца і 2 бараны з 30 валок, 1 курыца і 30 яек, або 2,5 гроша з валокі. У падняпроўскіх і падзвінскіх валасцях С. была адменена для гарадоў, а ў вёсках заменена інш. зборамі. Мясц. назвы С. — ялаўшчына, вепраўшчына, баўкуноўшчына, *каняўшчына, мезлева*, спіжа, пабары.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 102—122.

**Столін** (цяпер горад, цэнтр Столінскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Пінскім пав., на р. Гарынь. Вядомы з 16 ст. як прыватнае ўладанне з драўляным замкам, належаў Саламярэцкім, Вішнявецкім, Пацеям, Солтанам, Скірмунтам, Стахоўскім і інш. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у вер. 1655 С. узялі і спалілі казакі І.Залатарэнкі. Пры вызваленні войскамі ВКЛ Пагарыння на подступах да С. адбылася вял. няўдалая для іх бітва. Пасля гэтых падзей замак прыйшоў у заняпад. У 1791—93 цэнтр *Запінскага павета* Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**стольнік**, шляхецкі ўрад (пасада) у ВКЛ з сярэдзіны 15 ст. Загадваў сервіроўкаю велікакняжацкага стала і падачай страў. Кіраваў *падстоліямі*. Пазней выконваў функцыі намінальна. З сярэдзіны 17 ст. ўрад С. існаваў у паветах.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Стоўбцы** (цяпер горад, цэнтр Стаўбцоўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., на правым беразе р. Нёман. Паводле некаторых звестак, існавалі ў 1511. У пач. 17 ст. ўласнасць менскага кашталяна А.Слушкі (гл. ў арт. *Слушкі*), які ў 1623 заснаваў тут касцёл, у 1639 — *Стаўбцоўскі кляштар дамініканцаў*. У вер. 1655 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* спалены, знішчана больш за палову насельніцтва, але хутка аднавіліся і ў 1669 атрымалі прывілей на правядзенне таргоў і кірмашоў. У 1706 у час *Паўночнай вайны 1700—21* моцна разбураны, але хутка аднавіліся і ў 1722 атрымалі пацвярджэнне на таргі і кірмашы. У пач. 18 ст. ўласнасць С.Э.Дэнгафа (гл. ў арт. *Дэнгафы*), з 1728 — Чартарыйскіх, цэнтр графства, 144 двары, царква, касцёл, ратуша, школа і кляштар са шпіталем, карчма, буйная рачная прыстань з 16 складамі. У 1729 мястэчка атрымала магдэбургскае права. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Деленковский Н.И., Турко А.М. Столбцы: Ист.-экон. очерк. Мн., 1981; Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Пер. з пол. Мн., 1992.

***Сяргей Галоўка.***

**Стравінскія**, шляхецкі род герба «Суліма». Упамінаюцца з 1500. Найб. вядомыя:

Марцін (?—1594), цівун і гараднічы троцкі, маршалак гаспадарскі ў 1580—90, кашталян менскі ў 1590—92 і віцебскі з 1592. Пазычаў грошы каралю Стафану Баторыю на Інфлянцкую вайну 1558—82. Меў сына Гераніма Максіміляна, старасту рагачоўскага.

Бальцар (Бальтазар; ?—1633), брат Марціна, цівун троцкі, кашталян берасцейскі ў 1624—27 і смаленскі ў 1627—31, ваявода менскі з 1631. Неаднаразова выбіраўся пaслом на соймы.

Эразм, брат Марціна, палкоўнік каралеўскі, падкаморы ноўгарад-северскі.

Крыштоф, брат Марціна, суддзя земскі троцкі. Пакінуў сыноў Казіміра, канюшага троцкага, Караля, падкаморыя старадубскага, Збігнева, суддзю старадубскага, Максіміляна, стольніка старадубскага, Траяна, суддзю гродскага ашмянскага, Крыштофа, чашніка ашмянскага.

Францішак, войскі старадубскі, суддзя гродскі пінскі, пасол на элекцыйны сойм 1679.

Ігнацы (?—1787), стараста слонімскі ў 1762—75, падканюшы ВКЛ з 1771.

Вядомы таксама роды С. гербаў «Даліва», «Гіпацэнтаўр», «Прыяцель».

***Міхаіл Красноў.***

**Стража правоў**, Варта законаў (польск. Straż Praw), вышэйшы орган выканаўчай улады Рэчы Паспалітай. Створана 23.12.1789 *Чатырохгадовым соймам 1788—92* як рэгенцкая рада пры каралю ўзамен скасаванай *Пастаяннай Рады*. Пасля прыняцця *Канстытуцыі 3 мая 1791* аформлена як Стража нарадовых правоў (Варта нац. законаў) для нагляду за выкананнем усімі органамі ўлады соймавых пастаноў і законаў. У склад С.п. уваходзілі 11 чал.: кароль (старшыня),



прымас, 5 міністраў, з правам дарадчага голасу — маршалак сойма, спадчыннік трона, 2 сакратары. Міністраў прызначаў кароль на 2 гады: аднаго з маршалкаў як міністра паліцыі, аднаго з канцлераў як міністра пячаткі (унутр. спраў), другога канцлера як міністра замежных спраў, аднаго з падскарбіяў як міністра скарбу, аднаго з гетманаў як ваеннага міністра. Міністры былі адказнымі перад соймам і маглі быць ім зняты большасцю галасоў пры тайным галасаванні. С.п. дзейнічала праз *Адукацыйную камісію, Камісію паліцыі абодвух народаў, Вайсковую камісію абодвух народаў, Скарбовую камісію абодвух народаў* і *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя* ў ваяводствах і паветах. У надзвычайных абставінах (у выпадку вайны, рэвалюцыі, голаду, урадавага крызісу, смерці або небяспечнай хваробы караля) С.п. магла склікаць сойм. Рашэнні прымала калегіяльна большасцю галасоў за пячаткай караля без права тлумачэння законаў, увядзення або скасавання падаткаў, аб'яўлення вайны і заключэння міжнар. пактаў. Спыніла дзейнасць у сувязі з самароспускам сойма 29—30.5.1792.

*Літ.*: Historya reform politycznych w dawniej Polsce. Poznan, 1869; Volumina Legum. T. 9. Kraków, 1889; Smoleński W. Ostatni rok sejmu wielkiego. Kraków, 1896; Wojakowski J. Straż Praw. Warszawa, 1982.

***Яўген Анішчанка.***

**стражнік**, шляхецкі ўрад (пасада) у ВКЛ. Узнік у 16 ст. як С. польны. Яго абавязкам было назіранне за бяспекаю межаў з Маскоўскай дзяржавай. Прызначаўся гетманам, з часоў Аўгуста III [1733—63] зацвярджаўся каралём. У 1635 заснаваны ўрад С. вялікага, абавязкам якога было ў час знаходжання караля ў войску кіраваць пярэдняй стражай і загадваць караулам у час пастояў. Падобныя функцыі ў дачыненні да павятовага паспалітага рушэння мелі С. павятовыя.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Страйноўскі** Геранім (20.9.1752, в. Ходачкава Крамянецкага пав., Украіна—5.8.1815), асветнік, правазнавец, рэлігійны дзеяч. З 1776 ксёндз. Адукацыю атрымаў у калегіумах ордэна піяраў, членам якога быў у 1768—88 (пасля выхаду з ордэна застаўся белым ксяндзом). У 1776—80 выкладчык ма-



Геранім **Страйноўскі**. Мастак Ю.Аляшкевіч.

тэматыкі, логікі, метафізікі, паліт. эканоміі, натуральнага і міжнар. права ў Варшаўскім «Калегіум нобіліум». У 1781—87 праф. кафедры натуральнага права Гал. школы ВКЛ у Вільні. У 1787—89 наведаў Італію для ўдасканалення ведаў. З 1789 удзельнічаў у рабоце *Адукацыйнай камісіі*. З 1791 чл. камісіі па выпрацоўцы «Кодэкса Станіслава Аўгуста». У 1799—1806 рэктар Гал. школы (з 1803 Віленскі ун-т). Займаў талерантныя, памяркоўна-патрыятычныя («пралітоўскія») пазіцыі. Падвяргаўся крытыцы з боку духавенства за празмерна свецкія погляды, а з боку польскіх асветнікаў — за блізкасць да рас. імператарскіх колаў. «Польскай партыі» ўдалося замяніць С. на пасадзе рэктара Я.Снядэцкім. У апошнія гады адышоў ад актыўнай навук. і педагагічнай дзейнасці. З 1806 тытулярны біскуп ламбезітанскі і каад'ютар біскупа луцкага, з 1808 адміністратар (в.а. біскупа) Віленскай дыяцэзіі, з 1814 біскуп віленскі. Падзяляў погляды фізіякратаў, прыхільнік эмпірычна-утылітарысцкай этыкі. Аўтар падручніка «Навука аб прыродным і палітычным праве, палітычнай эканоміі і праве народаў» (Вільня, 1785), які вытрымаў 5 выданняў, у т.л. на рус. мове (1809).

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

***Энгельс Дарашэвіч.***

**стральцы**, 1) катэгорыя сялян-слуг у ВКЛ у 15—18 ст. У дзярж. уладаннях іх асн. павіннасцю была арганізацыя і ўдзел у паляванні вял. князя (егерская служба), акрамя таго, С. былі ваеннаабавязанымі. З сярэдзіны 16 ст. ў той год, калі не выконвалі сваіх прамых абавязкаў, то плацілі *чынш*. Ардынацыя пушчаў 1641 вызваліла С. ад абавязку ўдзелу ў ваен. паходах, а павіннасці сталі спаганяцца з 1 *валокі* зямлі (паводле «Уставы на валокі» 1557 С. выконвалі павіннасці з 2 валок). З 2-й пал. 17 ст. С. зноў ваеннаабавязаныя. У 18 ст. С., як правіла, пры выкананні егерскай павіннасці былі абцяжараны выплатай чыншу, натуральных падаткаў і інш. У прыватных і царк. уладаннях С. выконвалі ў асноўным толькі егерскую службу. Кольkасць і памер зямельнага надзелу, з якога спаганялася такая павіннасць, залежалі ад велічыні маёнтка. У прыватных уладаннях С. захавалі на больш працяглы час вольныя ад выплат зямельныя надзелы ў параўнанні з дзярж. уладаннямі. 2) Назва воінаў у 15—17 ст., якіх выстаўлялі для абароны замкаў у час небяспекі мяшчане ўсх.-бел. гарадоў.

***Аляксандр Доўнар.***

**«Страсці Хрыстовы»**, помнік беларускай перакладной агіяграфічнай літаратуры канца 15 ст., легендарна-апакрыфічная аповесць пра Ісуса Хрыста. Змешчана ў рукапісным зборніку разам з *«Аповесцю пра трох каралёў»* і *«Жыціем Аляксея, чалавека Божага»*. Перакладзена з лацінскай мовы з выкарыстаннем польскіх і чэшскіх крыніц. Пераклад зроблены католікам, вызначаецца высокай дакладнасцю і мастацкай дасканаласцю. Мова аповесці без царкоўнаславянізмаў, поўна адлюстроўвае жывую бел. мову таго часу. Асн. літ. крыніца помніка — апакрыфічнае евангелле ад Нікадзіма. У цэнтры твора яркае, драматычна напружанае апісанне апошніх дзён жыцця, пакутніцкай смерці і ўваскрэсення гал. героя, прарока, бога-чалавека, які быў па-здрадніцку выдадзены яго вучнем Іудам за 30 сярэбранікаў мясцовым рымскім уладам у Іерусаліме і па патрабаванні натоўпу распяты на крыжы як ератык і злачынец. Смерць Ісуса Хрыста пададзена з пункту гледжання царк.-рэліг. ідэйна-мастацкіх

канцэпцый хрысціянства як гераічны подзвіг і высакародная ахвяра ў імя лепшай будучыні ўсіх людзей. У аповесці створаны таксама кранальны вобраз Багародзіцы. Яе душэўныя перажыванні, глыбокі боль за сына раскрыты ў псіхалагічна праўдзівых маналогах-плачах. Упершыню выдадзена М.М.Тупікавым у 1901. Зборнік зберагаецца ў Рас. нац. б-цы ў С.-Пецярбургу.

*Літ.*: Карский Е.Ф. Западнорусский сборник XV в. Императорской Публичной библиотеки в С.-Петербурге Q I, № 391 // Карский Е.Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962; Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967.

***Уладзімір Свяжынскі, Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Струбіч** Мацей (?, Сілезія—да 1604), картограф, гісторык. Вучыўся ў гімназіі ў г. Ныса. Прыбыўшы ў Польшчу, служыў у радамскага кашталяна Г.Тарла і люблінскага старасты Я.Тэнчынскага, з 1559 у каралеўскай канцылярыі. Каля 1555 па заказу караля Жыгімонта II Аўгуста пераклаў на польскую мову трактат прускага герцага Альбрэхта пра ваенную справу. У 1563 набілітаваны. У 1577—79 для караля Стафана Баторыя выканаў падрабязныя карты Польшчы, ВКЛ, суседніх дзяржаў і маскоўскага памежжа, дзе ў той час ішла *Інфлянцкая вайна 1558—82*. У 1589 карта С. «Апісанне Вялікага княства Літоўскага, Лівоніі і Масковіі» выдадзена ў кнізе М.*Кромера* «Палонія, або Аб паходжанні і гісторыі палякаў». Пасля 1582 выканаў новую карту тэатра ваенных дзеянняў, якая была змешчана ў атласе Г.Меркатара (1595). Пасля смерці Стафана Баторыя (1586) перайшоў на службу да М.К.*Радзівіла* Сіроткі, дзе працаваў над вял. картай ВКЛ (выдадзена каля 1603, пасля ў 1613 і інш.). Склаў генеалогію Радзівілаў, выдадзеную ў Амстэрдаме. Аўтар геаграфічна-гіст. апісання Інфлянтаў «Brevis atque accurata Livoniae Ducatus descriptio historica-geographica» (1577, выдадзена ў Амстэрдаме ў 1727).

**Стрыйкоўскі** (Stryjkowski, Strykowski) Мацей (1547, мяст. Стрыкаў Ланчыцкага ваяв., Польшча—каля 1590), польскі гісторык, храніст, паэт. Скончыў парафіяльную школу ў Бжэзінах (Польшча, 1561). У 1563 пераехаў у ВКЛ. У 1563—73, відаць, служыў у войску ВКЛ на маскоўскай мяжы ў якасці рыскуна (разведчыка). Магчыма, удзельнічаў ва ўзяцці Улы (жн. 1568) і абароне Віцебска (вер. 1568). У 1572—74 служыў у Віцебскім гарнізоне пад камандаваннем А.*Гваньіні* і працаваў над гісторыяй ВКЛ і суседніх дзяржаў. У канцы службы здзейсніў падарожжа па Дзвіне, у час якога занатоўваў свае назіранні па гісторыі, этнаграфіі і культуры: аб Рагвалодавым камяні, цэрквах і манастырах Полацка. У 1574—75 удзельнічаў у пасольстве ў Турцыю. У 1576—78 знаходзіўся пры двары князёў Алелькавічаў у Капылі і Слуцку. У 1579 з дапамогай новага мецэната — жамойцкага біскупа М.Гедройца — заняў духоўную пасаду жамойцкага каноніка. У 1574 выдаў у Кракаве 2 паэмы: «Ганец цноты...» (кароткая вершаваная гісторыя ВКЛ, частка гэтага твора пад назвай «Генеалогія, альбо Кароткае апісанне вялікіх князёў літоўскіх» выдадзена ў 1626 у Любчанскай друкарні) і «Праслаўнага ўезду да Кракава і памяці годнай каранацыі Генрыка Валезы... апісанне». Аўтар гіст. твораў «Аб вольнасці Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага» (1575), «Аб пачатках, вывадах, мужнасці, справах рыцарскіх і хатніх слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага» (выд. ў 1978), «Аб паражэнні 30 000 Масквы з князем Пятром Шуйскім ваяводам полацкім у полі Іванскім над ракой Улай... 1564 года» (не апублікаваны, рукапіс зберагаецца ў Пушкінскім Доме ў С.-Пецярбургу). Гал. праца С. — *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі»* (1582) — першая друкаваная гісторыя ВКЛ. Многія даследчыкі лічаць, што твор Гаваньіні «Апісанне Еўрапейскай Сарматыі» (1578) з'яўляецца плагіятам запісак С., у чым С. неаднаразова абвінавачваў Гваньіні на старонках сваёй «Хронікі». Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 126.



М.**Стрыйкоўскі**. Дрэварыт. 1582.

*Літ.*: Рогов А.И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения: (Стрыйковский и его Хроника). М., 1966; Radziszewska J. Maciej Stryjkowski, historyk-poeta z epoki Odrodzenia. Katowice, 1978; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 82—129; Wojtkowiak Z. Maciej Stryjkowski — dziejopis Wielkiego Księstwa Litewskiego: Kalendarium życia i działalności. Poznań, 1990; Семянчук А.А. Мацей Стрыйкоўскі ў Вялікім княстве Літоўскім // Спадчына, 1995. № 1; Яе ж. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000.

***Альбіна Семянчук.***

**Стрэва**, рака, правы прыток Нёмана каля Каўнаса, на якой адбылася *Бітва на Стрэве 1348*.

**Стрэшын** (цяпер гар. пасёлак у Жлобінскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Рэчыцкім пав., на правым беразе Дняпра. Узнікла ў 12 ст. як феад. замак (гл. *Стрэшынскі замак*). Побач з замкам вырасла неўмацаванае паселішча. Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць С. са стараж. горадам Стрэжавам, які ўпамінаецца ў летапісах пад 1127 (1128) і 1159. С. упамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.). У 1399 падараваны вял. кн. Вітаўтам Віленскаму капітулу. У 16—17 ст. неаднойчы разбураны. Паводле падымнага рэестра Стрэшынскай вол. 1608, С. падзяляўся на 2 часткі: асн. тэрыторыю (каля замка, мела 56 дамоў) і прадмесце Слабада (46 дамоў). У С. былі 2 ганчарныя майстэрні, рудня, вадзяны млын на р. Стрэшынка. Інвентар 1628 апісвае замак, сядзібу, касцёл і царкву са званіцай; С. меў 100 двароў, паромную пераправу на Дняпры каля замка. У 1700 каля мястэчка заснавана паташная буда. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Стрэшынскі замак.** Існаваў у мяст. *Стрэшын* у 12—18 ст. Археалагічныя даследаванні сведчаць пра існаванне тут ужо ў 12 ст. драўлянага замка, пад аховай якога развівалася неўмацаванае паселішча. Інвентар горада за 1579, складзены ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82*, дае ўяўленне пра невял. паселішча з 30 дамоў і драўляны замак, у якім размяшчаўся нешматлікі гарнізон. У 1587 у арсенале С.з. меліся «дело, гаковницы, рушницы, порохи, кули». У інвентары за 1597 больш падрабязна гаворыцца пра запасы пораху («фунтов 100 по 56 грошей»), салетры («фунтов 50»), серы, волава («каменя 4»), ядраў і куль. Паўстанні і войны канца 16—пач. 17 ст. паўплывалі на расшырэнне замкавага арсенала, дзе тады налічвалася 4 гарматы, 10 гакаўніц, 35 ручніц, запасы пораху, серы, салетры, волава, гарматныя ядры і інш. амуніцыя. У гэты час С.з. адбудаваны, папоўніўся яго арсенал. Сярод ручной агнястрэльнай зброі акрамя гакаўніц у інвентары за 1615 упамінаюцца 34 «губчастыя ручницы». Перад замкам пабудаваны «двор» з 2 «стайнями», «пивницами», кароўнікамі. У інвентары Стрэшына ад 16.1.1628 адзначаны замак на гары над Дняпром і на Стрэшынцы, якая ў яго ўпадае, і «перекоп от места, через который мост до замку». Па ім траплялі ў «вежу воротную о трех помостах с бланкованьем» — 4-ярусную замковую браму з кругавой галерэяй насценнага бою. Быў і традыцыйны ўзвод, што падымаўся 2 ланцугамі над дубовымі апорамі-палямі. Край яго быў сцягнуты дзвюма жалезнымі паласамі. Для фіксацыі моста ў паднятым стане меліся 2 «железных чопа» — асобыя ланцугі. Двайныя створкі варот з брамкай-форткай былі забяспечаны складанай сістэмай жалезных і драўляных запораў. На 1-м ярусе брамы злева размяшчалася турма, на 2-м — «светлица великая», на 3-м — «свиран», адкуль па «усходу» траплялі наверх, «на бланкованье». Чацвёрты ярус меў 4 акны, 2 з якіх былі закрыты жалезнымі кратамі. Справа ад «светлицы» ішлі «тремя рядами одна от другой» сельскія гародні з «бланкованьем» на іх. У адной з гародняў захоўваўся порах і кулі, у 2-й, дзе раней размяшчалася замкавая капліца, падданыя складвалі свой хатні скарб. Гародні мелі дзверы на завесах або «бегунах» і запоры. У сістэму ўмацаванняў уваходзілі яшчэ 4 вежы, якія разам з гароднямі былі «по самое бланкованье глиной облеплены». У інвентары адзначаецца, што «в року 1626 как замок, так и вежи 4, бланкованье и усходы (лесвіцы на гародні) наново драницами побиты». На замкавым дзядзінцы месціліся і гаспадарчыя пабудовы, у т.л. піўніца, пякарня і дом, у якім жыў гараднічы. Сярод узбраення С.з. называюцца 4 гарматы, 2 з якіх былі «в ложах каваных на колах абадзястых не каваных» і 2 без ложаў ляжалі «на вежы у окнах» (відаць, гэта «вежа варотная»), 50 мушкетаў, 10 гакаўніц, 17 жалезных і 24 алавяныя гарматныя ядры, 500 гакаўнічных і 600 мушкетных куль, 88 фунтаў мушкетнага і 24 фунты гарматнага недраблёнага пораху, 29 фунтаў волава, 62 фунты салетры, гакаўнічныя і мушкетныя формы. Усім гэтым загадваў замкавы пушкар Марцін. Да замка і мястэчка прымыкаў «двор», абнесены высокай агароджай з тоўстых хваёвых бярвён, а з боку Дняпра — дубовымі каламі. Звесткі пра ўмацаванні самога Стрэшына ў дакументах адсутнічаюць. Інвентары С.з. за 1632 і 1635 даюць уяўленне пра стабільнасць яго планіроўкі і канструкцый фартыфікацыйных збудаванняў, наменклатуру зброі ў цэйхгаўзе. У *антыфеадальную вайну 1648—51* і *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Стрэшын знаходзіўся ў цэнтры ваен. падзей. У ліп. 1654 казакі І.Залатарэнкі ўзялі горад штурмам, а замак спалілі. Пасля вайны С.з. быў адноўлены, аднак ранейшай магутнасці ўжо не меў і ў такім стане праіснаваў да 1793.

**Сувораў** (Суворов) Аляксандр Васілевіч [13(24).11.1730, Масква—6(18).5.1800], расійскі палкаводзец. Генералісімус (1799), граф Рымніцкі і Свяшчэннай Рымскай імперыі (1789), князь Італійскі (1799). Пад кіраўніцтвам бацькі вывучаў артылерыю і фартыфікацыю. З 1747 на ваен. службе, у 1754 атрымаў афіцэрскі чын. Удзельнік Сямігадовай вайны 1756—63. У 1768— 72 на чале палка і брыгады ваяваў супраць войск *Барскай канфедэрацыі* на тэр. Беларусі і Польшчы: перамог у баях 1(12).9.1769 каля в. Арэхава (цяпер у Маларыцкім р-не) і 12(23).5.1771 каля в. Лянцкарона (цяпер у Малапольскім ваяв., Польшча), дзе разбіў асн. сілы канфедэратаў на чале з генералам Дзюмур'е. У вер. 1771 здзейсніў за 2 тыдні 600-вярстовы пераход па маршруце Берасце—Бяроза—Косава—Палонка—Крынка—Нясвіж—Клецк—Сіняўка—Лагішын—Пінск—Дарагічын—Антопаль—Ракітніца—Берасце; у *Сталавіцкай бітве 1771* разбіў атрад гетмана М.К.Агінскага. У рус.-турэцкую вайну 1768—74 разбіў ворага каля Гірсава (1773) і Казлуджы (1774). Потым накіраваны на Урал на разгром паўстання Е.І.Пугачова (гал. сілы паўстанцаў былі разбіты да прыезду С.). У 1778—79 і 1782—84 камандаваў карпусамі ў Крыме і на Кубані, садзейнічаў далучэнню Крыма да Рас. імперыі (1783). У рус.-турэцкую вайну 1787—91 перамог ворага каля Кінбурна (Паўн. Прычарнамор'е, 1787), Факшанаў ( цяпер Румынія, 1789), на р. Рымнік (цяпер Румынія, 1789) значна меншымі сіламі (25 тыс. рускіх і аўстрыйцаў) разбіў армію вял. візіра (90—100 тыс. чал.), авалодаў крэпасцю Ізмаіл (1790). З 1791 камандуючы войскамі ў Фінляндыі, у 1792—94 — на Украіне. У час падаўлення *паўстання 1794* дзейнічаў на Берасцейшчыне. 3(14).9.1794 разбіў перадавы атрад генерала Ю.Серакоўскага каля в. Дзівін, 4(15) вер. ўзяў Кобрын, 6(17) вер. ў выніку *Крупчыц-*



А.В.**Сувораў**. Партрэт невядомага мастака. 1795—96.



*кага бою 1794* прымусіў адступіць гал. сілы корпуса Серакоўскага, 8(19) вер. перамог яго ў вырашальнай бітве паміж Берасцем і Цярэспалем. 25.10(5.11).1794 штурмам узяў Прагу — прадмесце Варшавы, пасля чаго Варшава капітулявала. У 1795—96 камандуючы 3-й арміяй на Украіне. Напісаў там працу «Навука перамагаць», у якой распрацаваў асновы ваеннага майстэрства, абучэння і выхавання войск. У 1797 імператар Павел І звольніў яго ў адстаўку за крытыку ваенных статутаў і абмундзіравання, уведзеных у рас. арміі. У сак. 1797 С. прыехаў у Кобрын, а 23.4.1797 адпраўлены ў маёнтак Канчанскае Наўгародскай губ. У лют. 1799 прызначаны галоўнакамандуючым саюзнымі рас.-аўстрыйскімі войскамі антыфранцузскай кааліцыі ў Італіі. 14(25).4.1799 яму прысвоены чын генерал-фельдмаршала аўстрыйскай арміі. У крас.—жн. 1799 разбіў французаў на р. Адзе, Тыдане, Трэбіі, каля Нові (Італія). У вер. 1799 армія С. пераведзена ў Швейцарыю і накіравана на злучэнне з рас. корпусам генерала А.М.Рымскага-Корсакова. Аднак даведаўшыся, што корпус Рымскага-Корсакава разбіты, а саюзнікі-аўстрыйцы пакінулі рускіх без харчу і фуражу, вырашыў прабівацца скрозь баявыя парадкі французаў у Альпах у Аўстрыю. Правёў свае войскі з баямі цераз перавал Сен-Гатард, Чортаў мост, снегавую вяршыню Panikc і захаваў 2/3 асабовага складу арміі. Швейцарскі паход прынёс С. найб. ваен. славу. З 1795 валодаў Кобрынскім ключом, жыў тут у 1797, 1799 і 1800. Пасля вяртання ў Пецярбург зноў трапіў у няміласць цара. Пахаваны ў Аляксандра-Неўскай лаўры ў Пецярбургу. Як ваенны тэарэтык С. вызначаў сутнасць сваёй тактыкі як 3 воінскія мастацтвы: вакамер, хуткасць і націск. У развіцці ваеннай навукі трымаўся лепшых традыцый рас. арміі і палкаводцаў. Прыхільнік смелага рашучага наступлення як асн. формы баявых дзеянняў; хуткасць і раптоўнасць, адсутнасць шаблону, улік абставін, моцных і слабых бакоў праціўніка, выкарыстанне разнастайных баявых парадкаў, умелае спалучэнне розных родаў войск і інш. нязменна спрыялі яго поспеху і прынеслі славу лепшага рас. палкаводца. Сістэма яго ваенна-тэарэтычных поглядаў, кіраўніцтва войскамі выходзілі далёка за рамкі фе-ад.-прыгонніцкіх парадкаў і ў многім апярэдзілі элементы тагачаснага ваен. мастацтва.

*Тв.*: Полковое учреждение. М., 1949; Наука побеждать. М., 1950; Письма. М., 1986.

*Літ.*: Смит Ф. Суворов и падение Польши. Т. 1—2. СПб., 1866—67; Петрушевский А.Ф. Генералиссимус князь Суворов. Т. 1—3. СПб., 1884; Боголюбов А.Н. Полководческое искусство А.В.Суворова. М., 1939; Генералиссимус Суворов: Сб. док. и материалов. М., 1947; А.В.Суворов: Сб. док. Т. 1—4. М., 1949—53; Крастилевская А.Л. Великий русский полководец А.В.Суворов: К 150-летию со дня смерти: Рек. указ. лит. 2 изд. М., 1950; А.В.Суворов: Из материалов, опубл. в связи со 150-летием со дня смерти. М., 1951; Суворовский сборник. М., 1951; Осипов К. А.В.Суворов. 3 изд. М., 1955; А.В.Суворов: [Альбом]. М., 1986; Михайлов О.Н. Суворов. М., 1989; Орлов О.П. Полководец. СПб., 1995; Данилов А. «Русский штык прорвался сквозь Альпы!» // Армия. 1999. № 5; Богданов А.В. Суворов в 1799—1800 гг. СПб., 2000.

***Ніна Пліско.***

**суд**, дзяржаўная або грамадская ўстанова, якая разглядае і вырашае грамадзянскія спрэчкі і крымінальныя справы, сведчыць маёмасныя і інш. акты. У ВКЛ сельскія і гар. грамады склікалі *копны суд*, судовыя функцыі выконвалі валасныя *старцы;* з увядзеннем у гарадах *магдэбургскага права* ствараліся *войтаўска-лаўніцкія суды, бурмістраўска-радзецкія суды, радзецкія суды.* Вярхоўная судовая ўлада належала вял. князю літоўскаму і панам-радзе, якія ажыццяўлялі *гаспадарскі суд.* На месцах ад імя вял. князя судзілі намеснікі, ваяводы, старасты і дзяржаўцы, якія стваралі *замкавыя суды.* З часу правядзення ў сярэдзіне 16 ст. адм.-тэр. рэформы, прыняцця Статута ВКЛ 1566 у паветах утвораны шляхецкія *земскія суды, гродскія суды, падкаморскія суды.* Статутам ВКЛ 1588 уведзены *эксдывізарска-таксатарскія суды.* У часы бескаралеўя шляхта стварала *каптуровыя суды. Суды царкоўныя* ствараліся правасл., каталіцкімі і уніяцкімі іерархамі. Зацікаўленыя бакі маглі звяртацца да *палюбоўнага суда.* Па фінансавых справах судзіў *Скарбовы трыбунал.* Скаргі дзярж. сялян разглядаў рэферэндарскі С. (гл. ў арт. *Рэферэндар*), справы, што датычылі дзярж. маёнткаў, — *камісарскія суды.* Дзейнічаў таксама каралеўскі *задворны асэсарскі С.* Вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй для прывілеяваных станаў з 1581 быў *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага.* Найб. важныя справы разглядаў *соймавы суд.* У прыватных уладаннях феадалаў дзейнічаў *вотчынны суд*, шляхецкія канфедэрацыі стваралі *канфедэрацкія суды.* Судовую ўладу над яўрэйскім насельніцтвам мелі *кагалы.* Рэформамі 2-й пал. 18 ст. некаторыя судовыя функцыі аддадзены органам мясц. кіравання: *камісіям добрага парадку, камісіям парадкавым цывільна-вайсковым.* Судовую ўладу набылі цэнтр. органы дзярж. улады: *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага, Вайсковая камісія Вялікага княства Літоўскага, Адукацыйная камісія, Вайсковая камісія абодвух народаў, Камісія паліцыі абодвух народаў, Скарбовая камісія абодвух народаў.* У 1792 замест земскіх і гродскіх С. створаны *зямянскія суды.* С., прадугледжаныя Статутам ВКЛ 1588, дзейнічалі ў Беларусі і Літве да 1840.

***Валерый Пазднякоў.***

**суд лаўнікаў**, гл. *Войтаўска-лаўніцкі суд.*

**суд царкоўны**, суд духоўны. Разглядаў справы ўнутры канфесій, звязаныя са спрэчнымі пытаннямі па скаргах на духоўных асоб, пазбаўленнем іх стану, высвятленнем ступеняў роднасці пры ўзяцці шлюбу, міжканфесіянальнымі адносінамі, парушэннямі шлюбнай вернасці, невыкананнем рэліг. абавязкаў і інш. Традыцыйна ў праваслаўі, каталіцтве і уніяцтве вышэйшай судовай уладай валодалі *мітрапаліты* і *епіскапы.* У правасл. царкве ВКЛ органам С.ц. (як і кіравання) быў крылас — рада пры епіскапе, якая складалася з пастаянных членаў і часова запрошаных, намеснікаў духоўных і свецкіх, якіх выбіралі з мясц. прыхаджан, пратапопаў і дзесятнікаў. Белае прыходскае духавенства было падпарадкавана судовай уладзе сваіх епіскапаў, а манаскае падпарадкоўвалася ім толькі тады, калі манастыр не меў свайго патрона. Прыхаджане епархіі таксама падлягалі С.ц. па духоўных справах, асабліва па шлюбных. С.ц. правасл. царквы ў ВКЛ кіраваліся: *кормчымі кнігамі;* «Скруткам Яраслававым», вядомым з часоў вял. кн. Вітаўта і пац-

верджаным з дапаўненнямі ў 1514 вял. кн. Жыгімонтам I; мясц. царк. звычаямі; шматлікімі граматамі, выдадзенымі вял. князямі і каралямі, што тычыліся епіскапаў, цэркваў і манастыроў; Статутамі ВКЛ 1529, 1566 і 1588, якія хоць і тычыліся цывільных і крымінальных спраў, але закраналі і некаторыя духоўныя аспекты. У 1542 Жыгімонт I з панамі-радай выдаў чарговы эдыкт аб неўмяшанні свецкіх улад у духоўныя справы і вырашэнні гэтых спраў епіскапамі. Судовымі справамі ў кальвінісцкай царкве ВКЛ займаўся Віленскі сінод. Мусульмане да канца 18 ст. звярталіся да муфтыя Асманскай імперыі. Духоўнымі судовымі справамі ў іудзеяў займаўся рэліг. суд *кагалу*.

*Літ.*: Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970; Макарий (Булгаков М.П.). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996; Смолич И.К. История русской церкви, 1700—1917. Ч. 1—2. М., 1996—97.

*Алена Філатава.*

**суддзя**, службовая асоба, якая ўваходзіла ў склад пэўных судовых органаў і выконвала функцыі правасуддзя. С. былі: ураднікі велікакняжацкай адміністрацыі (цэнтральнай і мясцовай); выбраныя ў вызначаным парадку члены аддзеленых ад адміністрацыі судоў; феадалы ў адносінах да залежнага насельніцтва; найб. паважаныя сяляне-гаспадары (копныя мужы, *старцы*) — члены самага стараж. *копнага суда*. Кандыдаты ў С. павінны былі адпавядаць шэрагу патрабаванняў, найперш быць ураджэнцамі ВКЛ, маглі быць шляхціцы хрысціянскага веравызнання, якія валодалі нерухомай маёмасцю, ведалі дзярж. законы, не займалі інш. службовых пасад, былі пісьменныя і добрасумленныя. Выбраныя С. прыносілі прысягу, што будуць судзіць сумленна і справядліва, нягледзячы ні на якія абставіны. Змест прысягі падрабязна рэгламентаваны Статутам ВКЛ 1588. С. былі павінны своечасова з'яўляцца на судовыя пасяджэнні: за няяўку на працягу 3 дзён без уважлівых прычын яны маглі быць пазбаўлены пасады. С., які ў час пасяджэння абразіў каго-небудзь з удзельнікаў судовага працэсу, падлягаў турэмнаму зняволенню, а калі каго параніў, — мог быць пакараны смерцю. З мэтай папярэджання магчымых злоўжыванняў Статут рэгламентаваў памеры даходаў С. (гл. *Памятнае*).

Галоўным С. у дзяржаве быў *вялікі князь* (гаспадар). Разам з панамі-радай ён выконваў функцыі правасуддзя ў вышэйшым *гаспадарскім судзе*. Колькасць членаў гэтага суда вызначалася кожны раз у залежнасці ад характару справы, месца і часу пасяджэння і інш. абставін (ад 3 да 20 чал. і больш). Вял. князь (кароль) разам з сенатарамі з'яўляўся С. *соймавага суда*, у склад якога выбіраліся і некалькі соймавых паслоў. С. *камісарскага суда* прызначаліся вял. князем або інш. пастаяннымі С. з прадстаўнікоў Рады ВКЛ ці велікакняжацкай адміністрацыі. Членаў *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* выбірала на дэпутацкіх *сойміках* шляхта з «особ годных, богобойных, цнотливых прав и звычаев оного паньства Великого Князства Литовского, умеетных прав трибунальских и оседлых» (па 2 суддзі ад павета або ваяводства, якое не мела падзелу на паветы). Членаў *земскага суда* (С., *падсудка*, *пісара*) выбірала шляхта павета на элекцыйных сойміках. З чатырох вызначаных ёю кандыдатаў (на кожную пасаду) вял. князь зацвярджаў пажыццёва аднаго. Такі ж парадак існаваў і пры выбарах С. *падкаморскага суда* — *падкаморыяў*. На перыяд бескаралеўя ствараліся *каптуровыя суды*, членамі якіх былі С. павятовых судоў: гродскага, земскага, падкаморскага і некаторыя інш. ўраднікі. С. *замкавага суда* (гродскага) з'яўляліся службовыя асобы мясц. адміністрацыі: ваявода, стараста, дзяржаўца і іх намеснікі, а таксама прадстаўнікі мясц. шляхты; з 1566 са шляхціцаў прызначаліся С. і пісар. Для гараджан і феадальна-залежных людзей С. былі феадалы і іх ураднікі (гл. *Вотчынны суд*), а таксама асобы мясц. дзярж. і гаспадарчай адміністрацыі: ваяводы, старасты, дзяржаўцы, цівуны, войты, старцы і інш. У гарадах ВКЛ, якія атрымалі магдэбургскае права, былі створаны *бурмістраўска-радзецкія суды* (2—4 бурмістры і 6—20 радцаў) і *войтаўска-лаўніцкія суды* (войт і 4—12 лаўнікаў). С. *палюбоўнага суда* (кампрамісарскага) выбіраліся бакамі, якія вялі справу, С. *канфедэрацкіх судоў* — канфедэратамі.

*Таісія Доўнар.*

**Судзебнік 1468**, Статут Казіміра, першы кодэкс крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права ВКЛ. Выдадзены вял. кн. Казімірам на сойме 29.2.1468. Складзены на аснове мясц. звычаёвага права і судова-адм. практыкі. Складаецца з 25 артыкулаў. Устанавіў адзіныя для ўсёй дзяржавы віды пакаранняў за злачынствы супраць феад. уласнасці, абмяжоўваў адказнасць жонкі і дзяцей за злачынствы мужа і бацькі. У С. развіта ідэя індывідуалізацыі пакарання. Гэта было накіравана на захаванне гаспадаркі ўсёй сям'і як феадальна падатковай адзінкі, што было ў інтарэсах феадала. У выпадку, калі жонка і дзеці злодзея карысталіся крадзеным, дзейнічала норма старога звычаёвага права. Калі не было чым плаціць судовы штраф і кампенсаваць прычыненыя злачынствам страты, маглі перадаць у рабства таму, хто пацярпеў, жонку і старэйшых за 7 гадоў дзяцей асуджанага. Гэта першае ў законе вызначэнне ўзросту, з якога дзеці маглі несці адказнасць за віну бацькоў. Новым было і вызначэнне злачынства як процiпраўнага дзеяння: злачынца «ис права выступаеть», «над право сягнул». У С. ўпершыню змешчаны артыкул, які прадугледжваў аналогію закона. Так, паводле арт. 23-га за ўтойванне знаходкі вінаватага каралі, як за крадзеж. Узмацненне феад. прыгнёту і пазбаўленне залежных сялян права свабоднага адыходу ад феадала было замацавана ў арт. 24-м, які прадугледжваў суровае пакаранне асоб, што садзейнічалі ўцёкам чэлядзі нявольнай і феадальна-залежных сялян. У С. выявіўся і новы погляд на мэты пакарання. У звычаёвым праве гал. мэтай пакарання была кампенсацыя пацярпеламу прычыненай шкоды і спыненне злачыннай дзейнасці. Мэта пакарання, паводле С., — застрашванне, хоць не выключаліся і маёмасныя кампенсацыі. Цялесныя пакаранні і смяротная кара прадугледжваліся нават за такія злачынствы, як крадзеж на суму «выше полукопья», г.зн. больш за 30 грошаў. У старажытным праве злачынец, прыгавораны да смяротнай кары, мог ад яе адкупіцца, яго маглі таксама перадаць у няволю пацярпеламу ці яго блізкім. Паводле С. забаранялася вызваляць злачынцу ад кары. У С. адлюстраваны таксама захоп чужых



зямель феадаламі, іх міжусобіцы і зямельныя спрэчкі. Бакам у такіх выпадках прадпісвалася не рабіць самачынных нападаў і захопаў, а звяртацца ў суд. Калі ж феадал нападаў на другога феадала, то вінаватага належала разглядаць як парушальніка закону і караць. Але ў С. не ўказвалася, якое пакаранне трэба ўжываць да злачынца, бо такі прыгавор павінен быў выносіцца вял. князем з панамі-радай. У канцы С. абавязваў усіх жыхароў трымаць у належным стане дарогі і масты. За парушэнне гэтай павіннасці ўстанаўліваўся штраф 10 рублёў.

С. даў пачатак новаму этапу ў развіцці прававой тэорыі, практыкі заканадаўчай дзейнасці і кадыфікацыі феад. права, які завершаны выданнем Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588. С. напісаны на старабел. мове. Захаваўся ў 3 спісах канца 15—пач. 16 ст. Упершыню апублікаваны (лацінскімі літарамі) І.Даніловічам у 1826 у Вільні.

*Літ.*: Лаппо И.И. «Судебник» Казимира Ягайловича // Зап. Рус. науч. ин-та в Белграде. Белград, 1939. Вып. 17; Подо-зерская-Уткина Г.Ф. Судебник Казимира Ягеллона // Науч. бюл. ЛГУ. 1946. № 7; Старостина И.П. Судебник Казимира 1468 г. // Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исслед., 1988—1989 гг. М., 1991; Круталевіч В.А., Юхо Я.А. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917—1945 гг.). 2 выд. Мн., 2000.

*Язэп Юхо.*

**судовы**, гл. *Яцвягі*.

**Судроўскі** Станіслаў (каля 1550, г. Астраленка—1600), дзеяч кальвініс-цкай царквы. Відаць, вучыўся за граніцай. Пасяліўся ў Вільні, дзе набыў вядомасці як прапаведнік. У 1573 на пратэстанцкім сінодзе ў Кракаве выбраны сеньёрам кальвінскіх збораў ВКЛ. Аўтар тэалагічных твораў, выдадзеных у Віленскай друкарні Я.*Карцана*. Падрыхтаваў польскамоўны «Катэхізіс (1598, Вільня; 2 выд. 1600), заснаваны на Нясвіжскім «Катэхізісе» С.Буднага 1562. Памёр у Вільні.

**Супрасль** (польск. Supraśl, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), мястэчка ў Гарадзенскім пав., на р. Супрасль. Узнікненне С. звязана з перанясеннем у 1500 *Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра* з г. Гарадок у сярэдняе цячэнне р. Супрасль на месца будучага горада. У манастыры зберагалася каштоўная *Супрасльская манастырская бібліятэка* (з яе паходзяць *супрасльскія рукапісы*). У манастыры была збудавана *Супрасльская Дабравешчанская царква*, у канцы 17—пач. 19 ст. дзейнічала *Супрасльская друкарня*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

**Супрасльская Дабравешчанская царква**. Узведзена ў *Супраслі* ў пач. 16 ст. ў тэхніцы гатычнай муроўкі на сродкі берасцейскага старасты, навагародскага ваяводы, маршалка ВКЛ А.І.Хадкевіча (гл. ў арт. *Хадкевічы*) пры ўдзеле смаленскага епіскапа І.Солтана (гл. *Іосіф II*) як гал. храм *Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра*. У 1510 храм асвяцілі, у 1516 — паўторна, бо ранейшыя святары былі абвінавачаны ў схізме. У 1550 да паўд.-ўсх. вугла алтарнай часткі прыбудавалі рызніцу. З 1614 царква уніяцкая. У 17 ст. да зах. фасада прыбудавалі прытвор. У 18 ст. замест цыбулепадобных зроблены барочныя фігурныя завяршэнні вежаў і купала на сяродкрыжжы. У сярэдзіне 18 ст. інтэр'ер царквы часткова набыў ракайлевую дэкаратыўную аздобу. У 1832 храм вярнулі правасл. духавенству. У 1944 нямецка-фашысцкія захопнікі пры адступленні ўзарвалі царкву. На слупах захаваліся рэшткі фрэсак (30 фрагментаў). У 1945—46 іх зафіксавалі польскія рэстаўратары пад кіраўніцтвам У.Пашкоўскага; у 1964—66 рэстаўрыраваны. У 1999 храм адбудаваны.

Царква — 4-слупавая 3-нефавая 4-вежавая з 3 гранёнымі апсідамі пабудова, выцягнутая па падоўжнай восі. Першапачаткова вежы мелі цыліндрычную форму, пазней надбудаваны 8-гранныя ярусы. Крыжова-цэнтрычная кампазіцыя вянчалася надзвычай выцягнутым светлавым 8-гранным барабанам з самкнёным купалам. У цокальнай частцы фасады былі ўпрыгожаны трыльяжным арнаментам з перапаленай цэглы. Вокны мелі стральчатую форму, а ў бакавых праслах гал. фасада круглую. Іх адхоны былі апрацаваны складанапрафіляванай цэглай. У версе сцен асн. аб'ёму і алтарнай часткі зроблены байніцы. Звонку пояс машыкуляў утвараў своеасаблівы аркатурны фрыз. Тарцы дахаў з 4 бакоў свету закрывалі магутныя кілепадобнай формы франтоны, аздобленыя рытмічна размешчанымі плоскімі нішамі з паўкруглым завяршэннем. Уваход быў акцэнтаваны пазней узведзеным прамавугольным у плане прытворам. Над уваходам меліся хоры, на якія вялі вінтавыя ўсходы ў паўн.-зах. вежы. Цэнтр. неф быў значна шырэйшы за бакавыя. Нефы пераходзілі ў апсіды. Прасторавыя ячэйкі інтэр'ера перакрывалі разнастайныя гатычныя скляпенні: крыжовыя, сеткавыя, зорчатыя, сотавыя.

У 1557 храм аздоблены фрэскамі (мастак «Сербин Нектарий»). У скуф'і купала знаходзілася кампазіцыя «Хрыстос Уседзяржыцель». Апорныя слупы, падпружныя аркі, барабан купала ўпрыгожвалі выявы свяціцеляў, айцоў царквы і прарокаў, над імі серафімы. Асн. матыў арнаменту — раслінны, у ім выкарыстаны стылізаваныя кветкі мясц. флоры ў абрамленні мудрагелістых завіткоў. Евангельскія сюжэты размяшчаліся па перыметры сцен у 2 рэгістры, унізе праходзіў шырокі арнаментальна-дэкаратыўны фрыз з намаляванымі сюжэтамі, прысвечанымі акафісту Маці Божай і сцэнам з жыцця Хрыста. Пад евангельскімі сюжэтамі размешчаны выявы святых пустэльнікаў. Паводле характару іканаграфіі і стылю выканання размалёўка наближаецца да мастацтва Візантыі часоў Палеалогаў з элементамі зах.-еўрапейскага. У 1852—59 фрэскі пацярпелі ад вільгаці, у сувязі з гэтым былі забелены. У 1887 пабелку ліквідавалі сухім спосабам, пры гэтым частка фрэсак была пашкоджана. Іл. гл. ў т. 1, с. 111.

*Літ.*: Иодковский И. Храмы, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности: Тр. комиссии по сохранении древних памятников. М., 1915. Т. 6; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Рогов А.И. Фрески Супрасля // Древнерусское искусство: монументальная живопись XI—XVII вв. М., 1980; Яго ж. Супрасль как один из центров культурных связей Белоруссии с другими славянскими странами // Славяне в эпоху феодализма. М., 1987; Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. 3 изд. Мн., 1985; Церашчатава В.В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1991; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастац-



тва. Т. 1. 2 выд. Мн., 1993; Лаврецкий Г. Православное зодчество Беларуси. Мн., 1995; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура бел. барока. Мн., 2001; Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003. С. 65—68.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Супрасльская друкарня**. Існавала з пач. 1690-х г. да 1803 пры *Супрасльскім Дабравешчанскім манастыры*. Створана на аснове *Віленскай базыльянскай друкарні*. Размяшчалася ў мураваным будынку манастыра. Выпусціла больш за 420 выданняў. Зарэгістравана больш за 100 кірылічных выданняў, у т.л. «Собрание припадков краткое» (1722) на старабел. мове, буквары славянскай мовы, першы славяна-польскі друкаваны «Лексікон» (1722), першы кірылічны помнік нотадрукавання (1697, у зб. «Паследаванне пострыгу»). У 18 ст. выпускала таксама стараверскія выданні. З сярэдзіны 18 ст. пад уплывам ідэй Асветніцтва павялічыўся выхад перакладной навук. і мастацкай л-ры, арыгінальных твораў мясц. аўтараў. На польскай мове выдадзены «Кароткі збор польскай гісторыі і геаграфіі» (1767), «Новыя байкі Эзопа», «Падарожжа да вострава кахання» (1782), «Прыгоды Гулівера» Дж.Свіфта (1784), «Авантуры філосафаў, якія пакахалі модных жанчын» (1789), «Асновы земляробства», «Нясвіжская ардынацыя», «Трактат пра пчол», «Людовік XVI, забіты сваім народам», «Дыялог бурмістра з войтам» і інш. У 1780—90-я г. выпусціла некалькі кніг на літоўскай мове. Друкарня мела манапольнае права выпускаць некаторыя выданні для уніяцкай царквы, што прыносіла значныя даходы. Была добра абсталявана, выкарыстоўвала разнастайныя шрыфты, мастацкія ўпрыгожанні, наборны арнамент, фігурныя ксілаграфіі і гравюры на медзі.

*Літ.*: Лабынцев Ю.А. В помощь составителям сводного каталога старопечатных изданий кирилловского и глаголического шрифтов: Метод. указ. Вып. 3. Кирилловские издания Супрасльской типографии. М., 1978; Яго ж. Графіка беларускіх выданняў Супрасля // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 2; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984; Cubrzyńska-Leonarczyk M. Oficyna supraska 1695—1803: Dzieje i publikacje unickiej drukarni ojców bazylianów. Warszawa, 1993.

*Георгій Галенчанка.*

**Супрасльская манастырская бібліятэка**, бібліятэка *Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра*, адна з буйнейшых бібліятэк ВКЛ. У 1-й пал. 16 ст. манастыр стаў буйным правасл. культурным цэнтрам, ахвяраванні ў які, у т.л. кніжныя, паступілі нават з Таропца і Масквы. Манастыр даваў для чытання кірыліцкія кнігі з б-кі нават свецкім асобам (у 1654 Я.Радзівіл узяў у б-цы 2 кірыліцкія кнігі — хроніку і ірмалой,— пра што ўласнаручна даў распіску, пабудаваў школу для навучання «рускай» грамаце). У яго сценах перапісваліся кірыліцкія рукапісы, у распаўсюджванні якіх на бел. і ўкр. землях манастыру належала вял. роля. Тут перапісваліся шматлікія помнікі візантыйскай, стараж.-рус., балгарскай і сербскай л-р, выданні Ф.Скарыны, помнікі музычнай культуры і інш. Перапісчыкамі кніг былі беларусы і ўкраінцы. Выдатнымі кніжнікамі ў Супраслі былі манах Яўстафій, які перапісаў у 1580 зборнік палемічных і павучальных твораў, і Багдан Анісімавіч, «спевак родом с Пинска», які пакінуў выдатны помнік усх.-слав. музычнай культуры канца 16—пач. 17 ст.

Манастырская б-ка славілася сваімі кніжнымі багаццямі. Першы вопіс, складзены ў 1557 архімандрытам Сергіем Кімбарам, фіксуе 209 кніг, у т.л. на грэчаскай і лацінскай мовах. Вопіс паведамляе, што манастыр да 1532 меў 129 кніг, у т.л. «книг битых» (друкаваных) — 5. Да 1557 колькасць «битых» кніг павялічылася да 7. Вопіс 1645 фіксуе каля 600 кніг, сярод якіх пераважалі друкаваныя на лацінскай (212 т.) і польскай (152 т.) мовах. Большасць з іх была куплена ў Гданьску, Варшаве, Тыкоціне. Кірыліцкіх кніг было больш за 200, асн. масу складалі рукапісныя, зафіксаваныя яшчэ папярэднім вопісам 1557. Сярод друкаваных кніг было нямала выданняў «друку Скорининого», унікальны экзэмпляр «Евангелля» В.Цяпінскага, выданні І.Фёдарава, а таксама, мабыць, выданні Ш.Фіёля і маскоўскай ананімнай друкарні. Паводле вопісу 1688, друкаваныя кнігі зноў пераважаюць над рукапіснымі, але колькасць лацінскіх і польскіх кніг зменшылася ў 2 разы і складала 104 лацінскія і 72 польскія кнігі. Кірыліцкіх кніг было каля 200 (пераважна рукапісныя), у т.л. вядомыя па ранейшых вопісах. Зберагаліся таксама халдзейская граматыка, грэчаскія кнігі (Евангелле, Новы Запавет, граматыка), што вельмі паказальна для Супрасльскага манастыра, які захоўваў гэтую традыцыю з часоў свайго заснавання. У 17 ст. Супрасльскі кнігазбор працягваў заставацца адным з буйнейшых на Беларусі. Супрасль з'яўляўся адным з буйнейшых цэнтраў кірыліцкай кніжнасці не толькі беларускіх, але і ўсіх усх.-слав. зямель. Тут зберагаліся выдатны помнік слав. кірыліцкай кніжнасці 11 ст. т.зв. Супрасльскі рукапіс, летапісны зборнік 1-й пал. 16 ст., зборнік 1519 з самым поўным спісам 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446* (гл. *Супрасльскія рукапісы*, *Супрасльскі летапіс*). Шэраг кніг звязаны з традыцыямі ўсх.-слав. музычнай культуры: зберагаўся найстаражытнейшы (з тых, што дайшлі да нас) кірыліцкі рукапіс нотна-лінейнага пісьма — Супрасльскі ірмалой 1598—1601, а таксама значная колькасць рукапісаў і кніг, у т.л. маскоўскага паходжання. Сярод кірыліцкіх кніг некалькі было напісана на пергаменце.

Акрамя асноўнай у манастыры былі і келейныя бібліятэкі. Запіс «Евстафии архидиакон монастыря Супрясліского» на фрагменце пергаментнага Евангелля Апракос 13—14 ст. (б-ка Рас. АН) сведчыць, што гэта кніга была ў складзе келейнай б-кі супрасльскага архідыякана Яўстафія.

Кнігі актыўна чыталіся, перапісваліся, мігрыравалі. У 18 ст. манастыр значна папоўніў б-ку пераважна за кошт лаціна- і польскамоўных кніг, у т.л. надрукаваных у *Супрасльскай друкарні*. Вопіс 1764 фіксуе 1456 кніг, з іх больш за 800 на лацінскай мове, больш за 300 на польскай, некалькі дзесяткаў на французскай і італьянскай, больш за 10 на нямецкай мовах, больш за 100 рукапісных і друкаваных царк.-слав. кніг.

У пач. 19 ст. б-ка пачала прыцягваць увагу буйнейшых славістаў свету. Тады ж пачаўся паступовы адток кніжных каштоўнасцей з б-кі, у чым найперш вінаватыя былі ігумены манастыра. Вопіс 1836 фіксуе 1862 кнігі: на стараж. мовах (амаль выключна на лацінскай) — 1100, на французскай — больш за 50, на нямецкай — больш за 20, на італьянскай — больш за 100, на



польскай — каля 400, «Бібліятэка славянская» (раздзел на царк.-слав. мове) налічвала амаль 130 кніг, сярод іх пад № 1174 кніга «Іоў», надрукаваная ў 1517 у Празе Скарынам. На момант поўнай перадачы ў 1876 у Віленскую публічную б-ку значная частка Супрасльскага кнігазбору, найб. старажытная і каштоўная, ужо была вывезена рознымі асобамі. Акрамя 1109 кніг у Вільню было перададзена ў 1876 каля 200 спраў манастырскага архіва. У манастыры засталося толькі некалькі дзесяткаў кніг, пераважна царк.-службных, новага друку. Дзякуючы ігумену манастыра архімандрыту Мікалаю (Далматаву) з 1880-х г. б-ка і архіў сталі паступова папаўняцца. Яго ж клопатамі складзены каталог б-кі, якая на пач. 20 ст. налічвала каля 1000 адзінак захоўвання, і вопіс архіва (да 700 спраў). Усе яны былі ўжо не такія каштоўныя, але і гэты збор у далейшым быў страчаны. Большая частка рукапісаў і друкаваных кніг з С.м.б. знаходзіцца ў Вільнюсе, пэўная іх колькасць — у С.-Пецярбургу, Маскве, Варшаве і інш.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 9. Вильна, 1870; Д о б р я н с к и й Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882; Н и к о л а й (Д а л м а т о в). Супрасльский Благовещенский монастырь: Ист.-стат. описание. СПб., 1892; Р о г о в А.И. Супрасль как один из центров культурных связей Белоруссии с другими славянскими странами // Славяне в эпоху феодализма. М., 1978; У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Л а б ы н ц е в Ю.А. Издания Франциска Скорины и других славянских первопечатников в библиотеке Супрасльского монастыря // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Я г о ж. Пачатае Скарынам. Мн., 1990.

***Юрый Лабынцаў.***

**Супрасльскі абраз Маці Божай**, С у п р а с л ь с к а я А д з і г і т р ы я, адна з хрысціянскіх святынь Беларусі і Польшчы. Ушаноўваўся правасл. і грэка-каталіцкай цэрквамі як цудатворны. Паводле прыходскай кнігі *Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра*, унесены ў 1503 смаленскім епіскапам Іосіфам (будучы мітрапаліт кіеўскі *Іосіф II* Солтан) у Супрасль як дар манастыру разам з царк. начыннем і багаслужэбнымі кнігамі. Пашыраная на Беласточчыне легенда сцвярджае, што абраз з'явіўся 2 манахам на водах р. Супрасль. Іканапісны звод паходзіць ад візантыйскага абраза Маці Божай — Улахернскай Адзігітрыі («Пуцеводзіцельніцы»), напісанай, паводле царк. падання, евангелістам Лукой непасрэдна з Багародзіцы і перанесенай у пач. 12 ст. кіеўскім кн. Уладзімірам Манамахам у Смаленск. У адрозненне ад Улахернскай Адзігітрыі і яе спісаў (гл. *Смаленскі абраз Маці Божай*) на С.а.М.Б. дзіцятка Ісус трымае ў руцэ не скрутак, а кнігу; над галавой Маці Божай знаходзіцца Бог-Айцец у аблоках з анёльскімі чынамі. У Супрасльскім манастыры пры архімандрыце Сергію Кімбару ў 1557 абраз быў упрыгожаны сярэбранай вызалачанай шатай з каштоўнымі камянямі. Цудатворны абраз захоўваўся ў Супраслі да 1915, потым з-за наступлення германскіх войск быў перанесены ў Слуцк, далейшы лёс невядомы. Захаваліся 2 копіі, адна з якіх знаходзіцца ў царкве Іаана Багаслова ў Супрасльскім манастыры. Традыцыйныя дзень ушанавання абраза — 25 сак. (7 крас.), з 19 ст. таксама 23 ліп. (10 жн.) — дзень агульнага святкавання Смаленскай Адзігітрыі. У гэты час ладзяцца міжнар. навук. канферэнцыі і семінары, ідуць паломніцтвы да абраза.

*Літ.*: M i r o n o w i c z A. Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. Białystok, 1991; Ł a b y n c e w J., S z c z a w i ń s k a L. W mieście zwanym Zabłudowem. Białystok, 1995; Я с к е в і ч А.А. Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI—XVII стст.: адзінства экзэгезы і германэўтыкі. Мн., 1996; Спрадвечная Ахоўніца Беларусі: Духоўныя пошукі старабел. этнаса ў гіст. даляглядах. Мн., 2000. С. 43—46.

***Алена Яскевіч.***



**Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр**.

**Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр**, праваслаўны мужчынскі манастыр у мяст. *Супрасль*. Заснаваны ў 1498 навагародскім ваяводам і маршалкам ВКЛ А.І.Хадкевічам (гл. ў арт. *Хадкевічы*) пры ўдзеле смаленскага епіскапа Іосіфа (гл. *Іосіф II* Солтан) у родавай сядзібе Хадкевічаў у Гарадкуна-Супрасалі, у 1500 перанесены ніжэй па р. Супрасль ва ўрочышча Сухі Груд. Першыя манахі прыйшлі з Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1501 пабудавана драўляная царква Іаана Багаслова (згарэла ў 1650). Канстанцінопальскі патрыярх Іаакім блаславіў заснаванне манастыра падзячным лістом Хадкевічу. У 1503 епіскап Іосіф перадаў манастыру *Супрасльскі абраз Маці Божай* і ахвяраваў яму ў 1506 вял. зямельную маёмасць у Бельскім пав. У 1510 Хадкевіч падараваў манастыру г. Хворашч. У 1510 пабудавана *Супрасльская Дабравешчанская царква*. Манастыру дадзены статут, і ён стаў не толькі адным з буйнейшых цэнтраў бел. правасл. культуры, але і цэнтрам агульнаслав. значэння (другім пасля Кіеўскай лаўры). Меў сувязі з Кіевам, Слуцкам, Масквой, Сербіяй, Балгарыяй; у ім фарміраваліся багаслоўска-філасофская, іканаграфічная і архітэктурная школы, склаўся своеасаблівы стыль царк. спеваў (супрасльскі распеў). Тут напісаны «Пасланне каталіцкаму іерарху пра ерась каталіцызму» (1511), *Супрасльскі летапіс, Валынскі кароткі летапіс*, спіс «Кіева-Пячэрскага пацерыка» (усе 1519), дзейнічалі залатарская, пераплётная і інш. майстэрні. Пры ігумене



Сергію Кімбару ў 1537 пабудавана царква Уваскрэсення Хрыстова над катакомбамі, трапезная, гмах з манаскімі келлямі, млын, выкапаны сажалкі, наладжана гаспадарка ў манастырскіх фальварках. У *Супрасльскай манастырскай бібліятэцы* захоўваліся сотні каштоўных рукапісаў і старадрукаваных кніг. Манахі на чале з архімандрытам Іларыёнам (кн. Масальскі) змагаліся супраць *Берасцейскай уніі 1596*, былі напісаны і выдадзены 8 палемічных антыуніяцкіх твораў. Аднак пры архімандрыце Герасіме Веліконцію (1609—35) манастыр стаў уніяцкім і падпарадкаваны ордэну *базыльян* (з 1722 у манастыры знаходзілася гал. рэзідэнцыя гэтага ордэна). У 1645—1853 пры манастыры дзейнічала (з перапынкамі і пераўтварэннямі) духоўнае вучылішча, у 1695—1803 — *Супрасльская друкарня*, у 1710—1834 — папернся. У 1645—52 пабудаваны палац архімандрытаў, у 1695—97 — мураваная званіца (адноўлена пасля пажару як брама-званіца ў сярэдзіне 18 ст.). Астатнія надворныя будынкі — манаскія келлі, гасп. пабудовы ўзведзены ў 2-й пал. 18 ст. Уніяцкія манахі фінансава падтрымалі паўстанне 1794, удзельнічалі ў паўстанні 1830—31. У 1-й трэці 19 ст. манастыр заняпаў, на яго тэрыторыі да 1833 размяшчаўся шпіталь, частка будынкаў належала нямецкаму фабрыканту. На момант скасавання уніі (1839) у С.Б.м. было 5 базыльян, якія доўга адмаўляліся перайсці ў праваслаўе. У 1842 маёмасць манастыра канфіскавана. Да 1864 праваслаўе ў С.Б.м. адраджалася марудна з-за непрыхільных да яго адносін з боку навакольных паноў-католікаў. У 1875 на старых манастырскіх могілках пабудавана царква св. Панцеляймона, у 1890 — цёплая царква Іаана Багаслова, у 1901 — царква Георгія Пераможца на новых могілках. У 1915 у сувязі з 1-й сусв. вайной манахі эвакуіраваны ў глыб Расіі, з 1918 пачалі вяртацца. У 1919 польскі ўрад нацыяналізаваў маёмасць манастыра і апячатаў цэрквы, у 1924 адтуль выдалены апошні манах. У 1925 значная частка маёмасці манастыра аддадзена ў арэнду каталіцкаму ордэну салезіянаў. У 1927 віленскі біскуп Р.Ялбжыкоўскі асвяціў Дабравешчанскую царкву як каталіцкі касцёл. У час вызвалення Зах. Беларусі ў 1939 храмы і будынкі манастыра моцна зруйнаваны. У 1943 сюды вярнуліся правасл. манахі і пачалі адраджаць храмы. У час адступлення нямецка-фашысцкія захопнікі ў ліп. 1944 узарвалі Дабравешчанскую царкву і спалілі манастырскія будынкі разам з бібліятэкай. Пасля вайны польская адміністрацыя перадала манастыр салезіянам (гэтаму фактычна садзейнічала і выгнанне правасл. манахаў бандай акаўцаў 31.5.1945). З 1948 у манастыры месцілася школа механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1958 вернікі адбудавалі царкву Іаана Багаслова. У 1984 дзяржава вярнула вернікам руіны Дабравешчанскай царквы. Архіепіскап беластоцкі і гданьскі Сава адрадзіў С.Б.м. напачатку ў часовым памяшканні, а потым перавёў яго ў старыя манастырскія будынкі. У 1996 польскі ўрад замацаваў увесь манастырскі комплекс за правасл. царквой. У 1999 завяршылася праца па адбудове Дабравешчанскай царквы.

*Літ.*: Модест. Супрасльский Благовещенский монастырь // Вестн. Западной России. 1867. Т. 1, кн. 2—3; Николай (Далматов). Супрасльский Благовещенский монастырь: Ист.-стат. описание. СПб., 1892; Покрышкин П. Благовещенская церковь в Супрасльском монастыре // Сб. археол. статей, поднесенный графу А.А.Бобринскому. СПб., 1911; Рогов А.И. Супрасль как один из центров культурных связей Белоруссии с другими славянскими странами // Славяне в эпоху феодализма. М., 1978; Białostocczyzna. 1994. № 2; Mironowicz A. Supraśl jako ośrodek kulturalno-religijny w XVI wieku. Leimen, 1984; 500 lat monasteru w Supraślu. Supraśl, 1998; Katalog świątyń i duchowieństwa prawosławnej diecezji białostocko-gdańskiej. Białystok, 1998. S. 45—48.

*Мікола Гайдук.*

**Супрасльскі летапіс**, помнік беларуска-літоўскага летапісання 15 ст., самы поўны спіс 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*. Захаваўся ў рукапісе 1519, выяўлены М.К.Бабро̆ўскім у пач. 19 ст. ў *Супрасльскай манастырскай бібліятэцы*, адсюль назва (гл. таксама *Супрасльскія рукапісы*). Складаецца з 2 асн. частак: 1-я — «Избрание летописания», куды ўваходзяць скарочаны стараж.-рус. летапіс (ахоплівае гісторыю Русі за 854—1427), *Смаленская хроніка*, *«Пахвала Вітаўту»* і смаленскія пагадовыя запісы за 1432—46; 2-я — *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* з *«Аповесцю пра Падолле»*. Тэкст «Летапісца» няпоўны, з пропускамі. Упершыню апублікаваны І.М.Даніловічам у 1823—24 у час. «Dziennik Wileński». Змешчаны таксама ў 17-м і 35-м тамах «Поўнага збору рускіх летапісаў» (1907, 1980). Зберагаецца ў Архіве С.-Пецярбургскага філіяла Ін-та рас. гісторыі Рас. АН.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Супрасльскія рукапісы**, рукапісныя зборнікі, якія да 19 ст. зберагаліся ў *Супрасльскай манастырскай бібліятэцы*. Найб. вядомыя і каштоўныя:

Зборнік жыцій і пропаведзяў 11 ст. Напісаны старaслав. мовай на пергаменце (285 лістоў). Месца ўзнікнення дакладна невядома. Мяркуюць, што рукапіс балгарскага паходжання. Уяўляе сабой чэццю-мінею (кнігу для чытання) на сакавік. Змяшчае 24 жыціі і 24 словы-павучанні, у т.л. 20 слоў Іаана Златавуста. Адзін з самых стараж. помнікаў усх.-слав. пісьменнасці. Адкрыў і даследаваў М.К.Бабро̆ўскі. У 19 ст. падзелены на 3 часткі, якія зберагаюцца ў Варшаве (151 л.), Любляне (118 л.) і С.-Пецярбургу ў Рас. нац. б-цы (16 л.). У замежнай навук. л-ры гэты зборнік называюць Супрасльскім кодэксам (Codex Suprasliensis).

Летапісны зборнік 1-й пал. 16 ст. Складаецца з рус. скарочанага летапісу, блізкага да *Аўрамкі летапісу*, кароткай летапіснай выбаркі па гісторыі Русі і ВКЛ, пачынаючы з 862, і гіст. запісаў пра падзеі канца 15—пач. 16 ст. на Беларусі, у Кіеве і на Валыні (гл. *Валынскі кароткі летапіс*). Зберагаецца ў Рас. дзярж. архіве старраж. актаў. Упершыню апублікаваны ў 1836 М.Я.Абаленскім.

Зборнік 1519. Змяшчае свецкія і рэліг. творы, у т.л. самы поўны спіс 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446* (гл. *Супрасльскі летапіс*), пераклад на бел. мову Вісліцкага статута польскага караля Казіміра III Вялікага, «Кіева-Пячэрскі пацярык» і інш. Перапісаны ва ўсх. Беларусі пісцом Рыгорам для кн. С.Адзінцэвіча, радавод якога змешчаны ў канцы рукапісу. Адкрыты Бабро̆ўскім. Зберагаецца ў Архіве С.-Пецярбургскага філіяла Ін-та рас. гісторыі Рас. АН.



*Літ.*: Супрасльская рукопись, содержащая Новгородскую и Киевскую сокращенные летописи. М., 1836; Бобровский П.О. Судьба Супрасльской рукописи, открытой М.К.Бобровским. СПб., 1887; Северьянов С. Супрасльская рукопись. Т. 1. СПб., 1904; Супрасълски, или Ретков, сборник. Т. 1—2. София, 1982—83.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Сураж** (цяпер гар. пасёлак у Віцебскім р-не, Рэспубліка Беларусь), горад у Віцебскім пав., пры ўпадзенні р. Каспля ў Дзвіну. Узнік як умацаваны пункт (гл. *Суражскі замак*) на ўсх. мяжы ВКЛ у пач. *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Замак быў узведзены не пазней 1560. У 1560 пад сценамі замка ўжо існавала «места». У ліст. 1560 Жыгімонт Аўгуст вызваліў суражскіх мяшчан ад аплаты ўсіх мытных збораў у ВКЛ тэрмінам на 5 гадоў. Замак і «места» паўсталі на грунтах маёнтка Дрэчы Лукі, які быў уласнасцю Івана Сапегі. Яго сыны Леў, Рыгор і Андрэй неаднаразова прад'яўлялі правы на страчаныя землі, аднак з-за выключнага стратэгічнага значэння С. для ВКЛ атрымалі ў якасці кампенсацыі інш. маёнткі. У 1589 у адказ на чарговыя скаргі Сапегаў у С. былі накіраваны рэвізоры Б.Старасельскі, А.Варапай і А.Сівіцкі, якія прыйшлі да высновы, што замак неабходна пакінуць дзяржаве. 5.6.1570 Жыгімонт Аўгуст сваім прывілеем пашырыў на С. сістэму гарадскога права, якая ў 2-й пал. 16 ст. склалася ў Віцебску. Жыхары С. засталіся пад юрысдыкцыяй віцебскага ваяводы (яго намесніка), які мог судзіць іх толькі ў С. ў прысутнасці войта і старшых мяшчан. Мяшчане атрымалі права на выбар войта, бязмытны гандаль на тэр. ВКЛ (не датычыла ўвозу солі з Рыгі і вывазу воску ў Рыгу і Вільню), правядзенне 2 кірмашоў на год, вольнае распараджэнне сваёй рухомай і нерухомай маёмасцю, свабоду выбару месца жыхарства на тэр. ВКЛ і інш. Ім былі перададзены землі на адлегласці 1 міля вакол замка. Гал. павіннасцю мяшчан было нясенне коннай вайсковай службы. Прывілей пацверджаны 14.12.1576 Стафанам Баторыем і 16.3.1597 Жыгімонтам III Вазам. 20.12.1576 Стафан Баторый надаў С. герб — «замокъ и три вежы». У 1616 і 1633 пасад С. спалены рас. войскамі. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* С. 2.12.1654 заняты рас. атрадам ваяводы Сямёна Стрэшнева. У 1667 паводле Андросаўскага перамір'я вернуты ВКЛ. У 1771 у С. 7 вуліц, больш за 120 дамоў, каля 600 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Макараў М. Віцебскае мейскае права // Гістарычны альманах. Гародня, 2003. Т. 8.

***Максім Макараў.***

**Суражскі** Васіль, беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст 2-й пал. 16 ст. Мяркуючы па прозвішчы, паходзіў з Суража, але невядома з якога — віцебскага, бранскага ці падляшскага. Пасля смерці І.Фёдарава кіраваў да 1598 *Астрожскай друкарняй*. Да асобных яе выданняў напісаў прадмовы. Быў членам літаратурнага гуртка кн. К.Астрожскага. У гісторыю палемічнай л-ры ўвайшоў як аўтар кнігі «Аб адзінай ісцінная праваслаўнай веры і святой саборнай апостальскай царкве» (Астрог, 1588), скіраванай супраць прапаганды ідэі царк. уніі Б.Гербеста і П.Скаргі. У творы выявіў эрудыцыю ў веданні царкоўна-кананічнай л-ры. Цікавая зместам і некаторымі запазычаннямі ў іншых аўтараў кніга С. не вызначаецца літ. густам. Свае думкі ён выкладаў на царк.-слав. мове і толькі зрэдку ўстаўляў словы жывой нар. мовы, таму стыль надзвычай цяжкі.

*Літ.*: Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 2. СПб., 1882; Возняк М. Історія української літератури. Т. 2, ч. 1, Львів, 1921; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977.

***Аляксандр Коршунаў.***

**Суражскі замак.** Узведзены каля 1560 у Віцебскім пав. ў сутоках рэк Каспля і Дзвіна паводле загаду вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста. Будаўніцтвам кіраваў віцебскі ваявода С.А.Збаражскі. Гал. прызначэнне С.з. — абарона паўн.-ўсх. мяжы Віцебскага ваяв., супрацьстаянне Усвяцкаму замку і кантроль за рэкамі Каспля і Дзвіна. Замак пабудаваны з дрэва і абнесены земляным валам, відаць, толькі з Пн, а з боку Касплі ахоўваўся амаль вертыкальным берагавым абрывам і шырокай тут ракой. Меў таксама драўляныя ўмацаванні — гародні. Цяпер замкавы вал знівеліраваны. Вывучэнне абарончага рова, прарэзка яго (1977, М.А.Ткачоў) паказалі, што вал і роў мелі шырыню 10—12 м. Вал дасягаў вышыні 4 м. Аснова яго з боку падворка была выбрукавана, ніз знешняга схілу ўмацаваны сценкай з плах, замацаваных слупамі, што прадухіляла спаўзанне насыпу ў роў, сценкі якога былі ўмацаваны косаўкапанымі бярвёнамі. На карце Полацкага княства С.Пахалавіцкага (1579), а таксама картах М.Струбіча (1579) і Т.Макоўскага (1603) замак паказаны з адной 2-яруснай вежай. На ўзбраенні яго гарнізона былі гарматы і гакаўніцы. Ваенная амуніцыя даслана сюды яшчэ ў 1562 у час будаўніцтва. У ходзе ваенных падзей 17—18 ст. Сураж і замак зведалі неаднаразовыя разбурэнні. У 1616 і 1633 яны былі спалены рас. войскамі, але праз некаторы час зноў адбудаваны. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654 заняты царскімі войскамі. У 1655 жыхары Суража ўзнялі паўстанне і захапілі замак. Царскія войскі 20.8.1656 сканцэнтраваліся насупраць С.з. і «тайника от реки Двины». Пасля таго як у абаронцаў «отняли воду», пачаліся артылерыйскія абстрэлы, якімі ў рэшце рэшт абложаных «на городе з верхних боев и с средних выбили вон и теснение им учинили великое, а утеснив, зговорили» спыніць супраціўленне. Здача адбылася 2.9.1656. Пераможцам дасталіся 3 сцягі, 4 палкавыя медныя гарматы на калёсах калібрам 0,5—3,5 фунтаў, 26 зацінных пішчаляў, 8 фунтаў мушкетных куль, 355 ядраў, у т.л. 58 жалезных і 12 свінцовых, 1104 ядры для зацінных пішчаляў, 2 пратазаны і інш. Пераважная большасць суражскіх «сидельцев» былі ўзброены бердышамі. Абарончыя сцены С.з. мелі 2 ярусы бою. Тут жа знаходзіўся тайнік, які выводзіў да вады, а перад уязной брамай — пад'ёмны мост на ланцугах. З прыступнага боку акрамя вежы-брамы былі, відаць, яшчэ 2 вежы. Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 Сураж застаўся ў складзе ВКЛ. Замак быў аднаўлены. На «Чертеже» (1701), зробленым стольнікам Пятра I М.Цызыровым, зафіксаваны абарончыя сцены С.з. без вежаў і 2 масты цераз роў; замак паказаны ў плане як круглы. Пасля 1765 С.з. меў шырыню каля 11,5 м і «паркан-острокол». Цераз абарончы роў да драўлянай замкавай брамы падводзіў мост. На самым рагу замчышча, на стрэлцы мыса, была жылая па-

будова. Перад замкам стаяла царква. Пасля 1772 С.з. перастаў існаваць.

*Літ.*: Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582): Пер. с латин. СПб., 1889. С. 50—52.

**Сурдзегскі Святадухаўскі манастыр**, праваслаўны мужчынскі манастыр у мяст. Сурдзегі Вількамірскага пав. (цяпер Сурдзягіс Анікшчайскага р-на, Літоўская Рэспубліка). Заснаваны ў 1636 у глыбіні этнічных літ. зямель Ганнай Гарадзецкай-Білевіч з роду Ставецкіх. Яна пабудавала мураваную царкву і забяспечыла манастыр зямельнай уласнасцю. Увесь час існавання ВКЛ ён заставаўся праваслаўным пад апекай *Віленскага Святадухаўскага манастыра* і пад юрысдыкцыяй мітрапаліта кіеўскага і патрыярха канстанцінопальскага. Яго ўзнікненню папярэднічала з'яўленне ў 1530 над крыніцай абраза Маці Божай. На гэтым месцы Аляксей Уладыка пабудаваў царкву. Паломнікі ў вял. колькасці збіраліся на свята Успення Багародзіцы; у 1-ы дзень свята ківот з абразом абносіўся вакол царквы, на 2-і дзень (Перанясенне нерукатворнага абруса) з ім абходзілі могілкі. Абраз карыстаўся асаблівай апекай купцоў з Рыгі. Цяпер абраз знаходзіцца ў Каўнаскім правасл. саборы. Намаляваны тэмперай на дошцы, аздоблены металічнай шатай, належыць да іканаграфічнага тыпу Заміланне, паводле характару жывапісу адносіцца да 1-й пал. 16 ст.

*Літ.*: Сурдегский Свято-Духов монастырь. СПб., 1875; Белоруссия и Литва. СПб., 1890. С.54—55.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Сурта** Трафім Раманавіч, магілёўскі летапісец канца 17—пач. 18 ст. Быў купецкім старастам, неаднаразова выбіраўся ў магістрат лаўнікам. У традыцыйнай пагадовай форме склаў першы магілёўскі летапіс (звесткі за 1526—1701), які ўвайшоў у *Магілёўскую хроніку*. Гісторыю Магілёва пачаў з 1526, найб. падрабязна апісаў падзеі 2-й пал. 17 ст. Цікавіўся гісторыяй Расіі, Польшчы, у летапісе выкарыстаў хронікі А.Гваньіні, М.Стрыйкоўскага, Кіеўскі сінопсіс, розныя гіст. запісы. С. належаў да патрыятычна настроенай гар. арыстакратыі, цесна звязанай з нац.-культ. традыцыямі. Прытрымліваўся памяркоўных поглядаў. Асуджаў выступленні магіляўчан супраць гар. улад (паўстанне 1610 называў бунтам), адмоўна ставіўся да уніятаў, не ўхваляў дзеянні ўкр. казакоў на Беларусі.

*Літ.*: Зборнік матэрыялаў магілёўскіх чытанняў «Трафім Сурта і яго час». Магілёў, 1993.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**суфраган** (ад лац. suffrago падтрымліваю, дапамагаю), у рымска-каталіцкай царкве біскуп — памочнік дыяцэзіяльнага біскупа (кіраўніка дыяцэзіі). У праваслаўі адпавядае тытулу вікарыя.

**Суша**, Кап'ё, замак у Полацкім ваяв. ў 2-й пал. 16 ст. Пабудаваны ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у 1566 паводле загаду цара Івана IV Грознага рас. войскамі пад камандаваннем кн. Ю.Такмакова на востраве воз. Суша. Уяўляў сабой прамавугольнае ў плане драўлянае збудаванне з 7 вежамі, адна з іх праязная. Вежы, вырашаныя як чацверыкі і васьмерыкі, былі накрыты шатровымі дахамі; стаялі (акрамя праязной) на паўкруглых земляных падножжах, мелі па 3 баявыя ярусы. Сцены мелі па 1 верхнім баявым ярусе. Замкавы дзядзінец быў шчыльна забудаваны хатамі, тут жа была царква. У 1567 і 1579 пад сценамі замка адбыліся жорсткія баі. У 1579 узяты войскамі ВКЛ. Выява замка захавалася на гравюры, зробленай паводле малюнка С.*Пахалавіцкага*.

*Літ.*: Сапунов А.П. Рисунки крепостей, построенных по повелению царя Иванa Васильевича Грозного после завоевания Полоцка, в 1563 году // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 2.

**Суша** Якуб (свецкае імя Ян; 1610, Менск—4.3.1685), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Д-р тэалогіі. Вучыўся ў менскай базыльянскай школе, у Пултуску (Польшча), Оламаўцы (Чэхія), Рыме. У 1626 прыняў манаства. Выкладаў філасофію і тэалогію ў базыльянскіх манастырах. З 1652 епіскап холмскі. У 1661 выбраны генералам ордэна базыльян. Пісаў пераважна на лацінскай мове. Аўтар кніг «Уваскрэслы фенікс...» (1646), «Аб дзеяннях уніятаў...» (1646), «Савел і Павел» (1666). Яму прыпісваецца твор «Праіерэйскія павіннасці» (1870, на старабел. літаратурнай мове). Творы С. насычаны вытрымкамі з пастаноў, лістоў дзярж. і рэліг. дзеячаў; яны сведчаць аб эрудыцыі і ведах аўтара. Некаторыя яго творы перавыдадзены ў Парыжы і Лейпцыгу ў сярэдзіне 19 ст.

***Уладзімір Кароткі.***

**Сцыпіёны** (Сцыпіё дэль Кампа), шляхецкі род уласнага герба. Паходзілі ад неапалітанца Пятра Сцыпіёна дэль Кампы, двараніна каралевы Боны. Найб. вядомыя:

Крыштоф (каля 1578, г. Гародня—2.11.1649), сын Францішка. У 1596 уступіў у ордэн бернардзінцаў, вучыўся ў Віленскай акадэміі, Рыме, Саламанцы. З 1608 выкладаў у школе бернардзінскага кляштара ў Кракаве, увахо-




Замак **Суша**. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

дзіў у склад кіраўніцтва ордэна ў Рэчы Паспалітай. Узначальваў Польскую правінцыю бернардзінцаў (ахоплівала ўсю Рэч Паспалітую) у 1611—14, 1620—23 і 1640—45.

Казімір (?—1733), сын Андрэя. Адміністратар Шаўліскай эканоміі ў 1705—18, лідскі мечнік з 1701, пісар гродскі з 1711, падстолі з 1713, падкаморы з 1714, маршалак з 1716 або 1717. Пасол на соймы 1724, 1726, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1711, 1715, 1719. Удзельнічаў у *Віленскай канфедэрацыі 1716*.

Ян (?—1738), брат Казіміра. Лідскі пісар гродскі ў 1694—1708, падстолі з 1704, староста ў 1713—20, кашталян смаленскі з 1720. Пасол на соймы 1697—1720, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1699, 1703 (маршалак), 1708 (маршалак). Удзельнічаў у Віленскай канфедэрацыі 1716. У 1735 заснаваў у Воранаве піярскі калегіум, у Канюхах (Ваўкавыскі пав.) — дамініканскі кляштар. Валодаў маёнткамі ў Лідскім, Гарадзенскім, Мазырскім і Ваўкавыскім пав.

Юзаф (? — да 9.6.1743), сын Яна. Староста лідскі з 1720, маршалак надворны ВКЛ з 1739. Пасол на соймы 1722—36, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1717.

Ігнацы (пасля 1728—91), сын Юзафа. Вучыўся ў М.*Догеля*, у Лейпцыгу, Парыжы, Рыме. Староста лідскі з 1743, падстолі ВКЛ у 1765—86, генерал-маёр (1759), чл. Пастаяннай рады з 1776. Пасол на соймы 1748—76. Фінансаваў выданне кнігі Догеля «Граніцы Польскага каралеўства і Вял. кн. Літоўскага» (1758). Перавёў піярскі калегіум з Воранава ў Ліду (1756).

*Літ.*: Puszet S. X. Jan hr. del Campo Scipio. Kraków, 1890.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сцябельскі** Ігнат (каля 1748, Валынь—каля 1805), гісторык. Каля 1765 уступіў у ордэн базыльян. У 1770-я г. вікарый (намеснік ігумена) манастыра ў Полацку. Пасля выехаў з горада, які ў выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай апынуўся ў межах Рас. імперыі, у 1780 ужо быў у ВКЛ. Каля 1783 пасяліўся ў Жыровіцкім манастыры, у 1785 яго вікарый. Вывучаў гісторыю правасл. і уніяцкай царквы, ордэна базыльян у Беларусі і Украіне. Аўтар кнігі «Два вялікія светачы на полацкім гарызонце, якія паўстаюць з манаскіх ценяў, або Жыціі св. дзеў і матак Ефрасінні і Параскевы...» (т. 1, Вільня, 1781). У кнізе змешчаны алфавітны пералік аўтараў, творамі якіх карыстаўся С., з біябібліяграфічнымі заметкамі, і жыціі св. Ефрасінні і Параскевы з вял. каментарыямі. Як т. 2 выйшла кніга «Храналогія, або Дакладна па гадах сабраныя значнейшыя ў Кароне Польскай і Вялікім княстве Літоўскім, а менавіта на Белай Русі ў Полацку падзеі і перавароты...» (Вільня, 1782), дзе сабраны звесткі па царк. гісторыі Полаччыны 13—18 ст., у т.л. з прац М.Стрыйкоўскага, А.Гваньіні; прыведзены дзённік знаходжання ў горадзе Кацярыны II у 1780. У т. 3, які называецца «Дадатак да храналогіі...» (Вільня, 1783), прыведзена генеалогія князёў Астрожскіх, спісы епіскапаў, архіепіскапаў, мітрапалітаў, пералік базыльянскіх капітулаў, протаархімандрытаў і правінцыялаў, а таксама прамова С. ў Полацку ў 1778 на адкрыццё Полацкага намесніцтва. Твор С., над дапаўненнем якога ён працаваў да смерці, мае вял. значэнне для даследавання гісторыі правасл. і уніяцкай цэркваў на тэрыторыі Беларусі. Склаў радавод Солтанаў (надрукаваны пасмяротна).

*Тв.*: Dwa wielkie światła... T. 1—3. Lwów; 1866—67; Ostatnie ks. Stebelskiego prace. Kraków, 1878 (Scriptores Rerum Polonicarum. T. 4).

*Літ.*: Krawczyk A. Polskie tłumaczenie *Żywotu* świętej Efrozyny wraz z krytycznym komentarzem // Матэрыялы Трэцяй Міжнародных Кнігазнаўчых чытанняў «Кніга Беларусі: Повязь часоў». (Мінск, 16—17 верасня 2003 г.). Мн., 2005.

**Сцяцкевічы**, гл. *Статкевічы*.

**Сынковіцкая Міхайлаўская царква**. Пабудавана ў пач. 16 ст. з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі на паўн.-зах. ускраіне мяст. Сынковічы Слонімскага пав. (цяпер вёска ў Зэльвенскім р-не). Дакументы, якія б сведчылі пра час яе будаўніцтва і кцітарства, не выяўлены. Адносна ўзвядзення помніка існуе шмат паданняў. У краязнаўчай л-ры 20 ст. памылкова датаваны пач. 15 ст. Храм — зальная, 4-слупавая, 3-апсідная пабудова, у плане перакошаны прамавугольнік, фланкіраваны па вуглах 4 вежамі, цагляныя вітыя ўсходы якіх вядуць на паддашак, дзе ў завяршэнні сцен маецца абарончы пояс з



Сынковіцкая Міхайлаўская царква.

байніц розных тыпаў. Для зручнага перамяшчэння ўздоўж сцен над скляпеннямі быў пакладзены драўляны насціл. Вежы да ўзроўню гзымса маюць размешчаныя ўразбіўку байніцы рознай формы. Вышэй прасочваюцца 3 ярусы байніц. Да гал. фасада прымыкае прытвор, узведзены не пазней за 16 ст. Тарцовыя фасады завяршаюцца франтонамі трохвугольнай формы. Асн. мастацкі акцэнт зроблены на велічным франтоне гал. фасада, які аздоблены 11 плоскімі атынкаванымі нішамі розных памераў і канфігурацый. Асн. аб'ём храма накрыты 2-схільным дахам, у якім першапачаткова быў ужыты гонт. Звонку апсіды ў завяршэнні сцен аб'яднаны пры дапамозе ступеньчатых арачных тромпаў у адну і накрыты агульным высокім дахам. Пластыку бакавых фасадаў узбагачаюць невял. гранёныя контрфорсы паміж высока размешчанымі стральчатымі арачнымі вокнамі. У інтэр'еры чатыры 8-гранныя слупы падзяляюць прастору на 3 роўнавысокія нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі, у паўд. апсідзе ўжыты сотавыя скляпенні. Сцены атынкаваныя, расчлянёныя прамавугольнымі лапаткамі, аб'яднанымі са слупамі падпружнымі аркамі.

У 1841 і 1880—81 зроблены рамонты царквы, якія істотна не паўплывалі на яе аўтэнтычны выгляд. Заменены дах, дабудавана драўляная вежа-купалок над апсідай, разабраны драўляны купал над цэнтр. часткай храма. У 1891 недалёка ад уваходу ў царкву пабудавана званіца. У 1985 А.М.Кушнярэвіч правёў архітэктурна-археалагічнае даследаванне помніка ў сувязі з распрацоўкай ін-там «Белспецпраект-

рэстаўрацыя» праекта яго кансервацыі (архітэктар Г.П.Жаровіна). У 1990-я г. храм вернуты правасл. царкве. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 132.

*Літ.*: Иодковский И. Храмы, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности: Тр. комиссии по сохранении древних памятников. М., 1915. Т. 6; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. 3 изд. Мн., 1985; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1991; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. 2 выд. Мн., 1993; Лаврецкий Г. Православное зодчество Беларуси. Вып. 2. Мн., 1995; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура бел. барока. Мн., 2001; Кулагін А.Н. Праваслаўныя храмы Беларусі. Мн., 2001.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**«Сыракомля»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 70 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Булгакі, Вайніловічы, Грахольскія, Кандратовічы, Пуцяты. У чырвоным полі сярэбраны знак у выглядзе літары W (як у гербе *«Габданк»*), на ім сярэбраны крыж; клейнод — над прылбіцай з каронай такі ж знак з крыжом. Вядомы з сярэдзіны 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**сябры**, назва людзей у ВКЛ, якія супольна валодалі і карысталіся ворнай зямлёй, прамысловымі ўгоддзямі, сродкамі вытворчасці. Называліся таксама дольнікамі, патужнікамі, саўдзельнікамі, таварышамі. Упамінаюцца ў Статуце ВКЛ 1529. С. маглі быць сяляне, у т.л. без уласнай гаспадаркі, свецкія і духоўныя феадалы, купцы. З умацаваннем феад.-прыгонніцкай эксплуатацыі і развіццём грашовых адносін сяброўскае землекарыстанне паступова ператварылася ў падворна-спадчыннае. Рэшткі супольнага землекарыстання (грамадскае карыстанне лугамі, пашаю) на Беларусі захаваліся да пач. 20 ст.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1. СПб., 1897.

**Сялява** Антоній (свецкае імя Анастасій; каля 1583, Полацкае ваяв.—1655), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. З правасл. шляхецкага роду ўласнага герба. З 1612 чл. ордэ-



Герб **«Сыракомля»**.

на базыльян, з 1617 святар. Скончыў Грэчаскі калегіум у Рыме (1622). З 1622 архімандрыт уніяцкіх манастыроў: у Вільні Св. Тройцы, Навагародку, Жыдзічыне. З 1624 архіепіскап полацкі, з 1639 генеральны вікарый Кіеўскай мітраполіі. У 1641—55 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі з рэзідэнцыяй у Вільні, захаваў за сабой пасаду архіепіскапа полацкага. Адначасова з 1642 генерал (протаархімандрыт) ордэна базыльян, хаця такое сумяшчэнне супярэчыла канстытуцыям ордэна. Канфліктаваў з правасл. іерархамі, асабліва на тэрыторыі Полацкай уніяцкай архіепархіі — з Іосіфам Бабрыковічам, Сільвестрам Косавым і інш. У 1630—40-я г. ўдзельнічаў у падрыхтоўцы агульнага сабора уніятаў і праваслаўных з мэтай аб'яднання на падставе стварэння Кіеўскага патрыярхата і прызнання вяршэнства папы; вёў пра гэта тайныя перагаворы з Косавым і Пятром Магілам, але склікаць сабор не здолеў. Клапаціўся пра адукацыю святароў, умацаванне манастырскага жыцця, адкрыў семінарыю пры Менскім базыльянскім манастыры (1652). Папулярызаваў культ Іасафата Кунцэвіча. У апошнія гады з-за стану здароўя паслабіў кантроль над царквой. У пач. *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* пакінуў Вільню. У студз. 1655 перадаў адміністрацыю (часовае кіраванне) мітраполіяй Г.*Календу*, пераехаў у г. Тыкоцін, дзе і памёр. Аўтар «Антыэленхуса» (1622) — адказу на «Эленхус» М.Сматрыцкага (1622) і жыццяпіса Кунцэвіча (1625).




Антоній **Сялява**.

*Літ.*: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959; Уния в документах. Мн., 1997; Коялович М. Литовская церковная уния. Т. 2. СПб., 1861.

***Сяргей Казуля.***

**сяляне-слугі**, катэгорыя сялян у ВКЛ у 15—18 ст., асноўнай павіннасцю якіх было выкананне спецыяльных службаў — вайсковай і тых, якія патрабавалі большай кваліфікацыі, чым службы *даннікаў*, *цяглых сялян* і *чыншавых сялян*. Да С.-с. належалі вайсковыя сяляне (*панцырныя баяры, путныя баяры, выбранцы, служкі* і інш.), адм.-гасп. службовыя асобы (*старцы, войты, цівуны* і інш.), прыслуга (кухары, півавары і інш.), прамыславікі (*асочнікі, баброўнікі*, конюхі, рыбаловы, *стральцы* і інш.), вясковыя рамеснікі (кавалі, цесляры, ганчары, калеснікі, кушняры і інш.). С.-с. былі ў дзярж., прыватных і царк. уладаннях. Да 1-й пал. 16 ст. яны часта жылі цэлымі вёскамі. Зыходзячы са спецыфічнасці павіннасцей, мелі больш высокі сац. статус, чым інш. катэгорыі сялян. Гэта выяўлялася ў большай набліжанасці да пануючага класа — шляхты, у большых памерах штрафаў за злачынствы супраць С.-с. Так, у Статуце ВКЛ 1588 вызначаны наступныя памеры *галоўшчыны*: за забойства панцырнага слугі — 60 коп грошаў, путнага слугі — 50 коп, цівуна, войта, бортніка — 40 коп, рамесніка, псяра — 30 коп, у той час як за цяглага чалавека — 25 коп грошаў (у 1638 памер галоўшчыны ўраўнаваны для ўсіх катэгорый сялян). Службовыя абавязкі некаторых катэгорый С.-с. (путных баяр, страль-



цоў, цівуноў і інш.) маглі выконваць шляхціцы. Але асобы статус не вызваляў С.-с. ад прыгоннага стану. Яны мелі такое ж права пераходу, як і інш. сяляне, маглі быць як з *людзей пахожых*, так і з *людзей непахожых*. Пытанні пра змену іх становішча (замена аб'ёму павіннасцей, перавод у стан ці са стану С.-с.) канчаткова вырашаў уласнік уладання. Павіннасці С.-с. насілі комплексны характар, у іх уваходзіла асн. служба і дадатковыя. С., што выконвалі спец. службу, поўнасцю ці часткова вызваляліся ад інш. сял. павіннасцей. Пэўная служба спаганялася з вызначанага памеру зямельнага надзелу, калі С.-с. мелі больш зямлі, то ў асноўным за лішак яны плацілі толькі чынш; калі ж зямельны надзел быў недастатковы, то прапарцыянальна змяншаўся аб'ём павіннасцей. Пасля *валочнай памеры* служба С.-с. стала спаганяцца з *валок*. У дзярж. уладаннях служба, выконваць якую патрабаваўся конна (путныя баяры, службі, стральцы, асочнікі, войты), спаганялася з 2 валок, а інш. службы — з 1 валокі; С.-с. былі абавязаны несці толькі службу. У прыватных уладаннях С. часта сумяшчалі асн. павіннасць з адработачнымі і натуральнымі. Яны карысталіся выганамі, сенажацямі, борцямі, прыёмнымі землямі і інш. у асноўным на роўных умовах з інш. сялянамі. Плацілі дзярж. падаткі (сярэбшчыну, падымнае і інш.), адказвалі разам з інш. сялянамі за эксплуатацыю аб'ектаў агульнага карыстання (грэбляў, мастоў і інш.). Агульнай тэндэнцыяй у павіннасным становішчы С.-с. было імкненне ўласнікаў абысціся іх меншай колькасцю, а на існуючых накласці дадатковыя павіннасці ці зменшыць памер «вольнага» зямельнага надзелу (з якога ішла служба). У 16—1-й пал. 17 ст. гэта выяўлялася ў пераводзе непатрэбных С.-с. на чынш (асабліва рамеснікаў), а радзей на паншчыну. У гэты і наступны час С.-с. ў большай меры захавалі свой стан у буйных уладаннях. З канца 16 ст. і асабліва ў 2-й пал. 17 ст. характэрна змяншэнне «вольнага» зямельнага надзелу, а з пач. 18 ст. сама служба С.-с. стала абцяжарвацца новымі павіннасцямі (пераважна адработачнымі). Пры гэтым С.-с. прыватных уладанняў захавалі на больш працяглы час «вольныя» надзелы, хоць іх колькасць і тут змяншалася. Для абароны свайго становішча С.-с. выкарыстоўвалі скаргі на новаўвядзенні адміністрацыі ці арандатараў, дамагаліся надання ім пацвярджальных грамат пра іх павіннасці, адмаўляліся выконваць нетрадыцыйныя павіннасці. Такія сродкі барацьбы былі больш эфектыўныя ў дзярж. уладаннях.

З далучэннем у канцы 18 ст. Беларусі да Рас. імперыі С.-с. перасталі лічыцца асобнай сац. групай, і ў афіцыйных дакументах іх адносілі да інш. разрадаў сялян (вольных, паўцяглых і інш.), хоць у інвентарах уладанняў яны згадваюцца. У 1-й пал. 19 ст. рамеснікі, якія жылі з рамяства, плацілі чынш іператварыліся ў чыншавых сялян; прамыславікі станавіліся цяглымі ці чыншавымі сялянамі, а іх функцыі мог выконваць любы падданы ўладання ці прышлы чалавек. Вайсковыя С.-с. ў сувязі з увядзеннем на бел. землях рэкруцкай павіннасці страцілі свой асн. абавязак, але захавалі адметнасць у павіннасным плане (чынш) і часта адстойвалі сваё становішча. З сярэдзіны 19 ст. назвы відаў С.-с. перасталі шырока ўжывацца і ў гасп. дакументах.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. [М., 1892]; Леонтович Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1—3. СПб., 1897—98; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Его ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966: Пичета В.И. Состав населения в господарских дворах и волости западной части Белоруссии в пореформенную эпоху // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969; Грыцкевіч А.П. Беларускія выбранцы // Полымя, 1970. № 11.

***Аляксандр Доўнар.***

**Сямігадовая вайна 1756—63**, Трэцяя Сілезская вайна, вайна паміж Аўстрыяй, Францыяй, Расіяй, Іспаніяй, Саксоніяй, Швецыяй з аднаго боку і Прусіяй, Англіяй і Партугаліяй з другога. Пачалася з англа-французскіх сутыкненняў у Канадзе, якія прывялі да аб'яўлення вайны Англіяй Францыі ў маі 1756. Ваенныя дзеянні ў Еўропе пачаліся з уваходам 17.8.1756 прускіх войск (95 тыс. чал.) у Саксонію, ад якой Фрыдрых II запатрабаваў дазволу на свабодны праход. Саксонская армія (18 тыс. чал.) з Аўгустам III была акружана пад Пірнай. Гэта выклікала антыпрускія выступленні магнатаў і шляхты ў Рэчы Паспалітай. Усе 3 групоўкі (прыдворная партыя надворнага кароннага маршалка Е.А.Мнішака, прафранцузская партыя кароннага гетмана Я.К.Браніцкага і прарасійская партыя Чартарыйскіх) выказаліся ў абарону саксонскага курфюрста Аўгуста III як манарха Рэчы Паспалітай з патрабаваннем пачаць узброеную барацьбу з Прусіяй. Спробы аўстрыйскіх войск дапамагчы саксонцам скончыліся беспаспяхова, і ў выніку бітвы пад Лабазіцам 1.10.1756 аўстрыйцы адступілі за р. Эгер. Саксонія 4.10.1756 падпісала капітуляцыю. Аўгуст III не змог прыбыць на сойм Рэчы Паспалітай 1756, які не адбыўся. Гэта дало магчымасць пазбегнуць адкрытага канфлікту падчас соймавых пасяджэнняў паміж Чартарыйскімі і Радзівіламі, але не прыпыніла барацьбу паміж імі.

Запланаванае ўступленне ў вайну Расіі патрабавала праходу рас. войск праз Рэч Паспалітую. 25.9.1756 рас. сакратару ў Варшаве Ржычэўскаму быў дасланы рэскрыпт з патрабаваннем дамагацца афіцыйнага дазволу аб свабодным праходзе. 24.10.1756 ён даслаў такія патрабаванні да магнатаў, якія, аднак, адносілі рашэнне гэтага пытання да кампетэнцыі ўрада, але самі абяцалі не перашкаджаць руху рас. войск. У ліст. 1756 у Мсціслаўскае ваяв. ўвайшлі першыя рас. атрады. У лют. 1757 уступіла конніца пад камандаваннем М.Лівена, яна спынілася на лініі Вільня—Слуцк. 17.5.1757 у ВКЛ уступілі гал. рас. сілы. Вял. гетман ВКЛ М.К.Радзівіл спачатку нават хацеў далучыць да рас. войска некалькі сотняў жаўнераў, але потым сабраў усе войскі, каб пазбегнуць іх магчымых канфліктаў з рас. войскамі. Ад Лівена ён атрымаў адказ, што рас. войскі ўваходзяць як сябры і з мэтай дапамогі Аўгусту III. Рас. камандаванне запатрабавала ад кожнага павета патрэбную колькасць падвод, але толькі чвэрць з іх аплаціла грашыма, а астатнія — распіскамі. Такім жа чынам плацілі за збожжа, якім з-за вайны шляхта ВКЛ не магла гандляваць праз Усх. Прусію.

У 1757 хвароба рас. царыцы Елізаветы І прывяла фельдмаршала



С.Апраксіна да рашэння аб адступленні рас. войск з тэатра ваенных дзеянняў (спадчыннік трону Пётр быў прыхільнікам Прусіі). Рас. войскі распалажыліся на Пн ВКЛ і рабілі значныя шкоды мясц. насельніцтву, што выклікала вял. колькасць скаргаў у суды і да ўрада Рэчы Паспалітай. Антырас. агітацыю пачаў нават адзін з лідэраў «Фаміліі» падканцлер ВКЛ М.А.Сапега. Навагародская шляхта паслала сваіх паслоў са скаргамі да караля. У 1757 Радзівілы перамаглі на выбарах у Трыбунал ВКЛ, але не маглі правесці ніякіх рашэнняў супраць прарас. «Фаміліі» з-за прысутнасці рас. войск. Узімку 1757—58 рас. войскі зноў увайшлі ва Усх. Прусію і занялі Каралявец. Далейшыя дзеянні аўстрыйцаў і расіян не мелі поспехаў, і рас. войскі адышлі ў Рэч Паспалітую. У ВКЛ іх паводзіны выклікалі пратэсты шляхты. Прысутнасць замежных войск не спыніла ўнутрыпаліт. барацьбы ў Рэчы Паспалітай. Тут аслаблі пазіцыі «Фаміліі», а новы рас. пасол Ваейкаў наладзіў супрацоўніцтва з каралеўскім дваром. Адначасова ў ВКЛ расла незадаволенасць з-за пастояў рас. войск. 21.5.1758 у Гародні створана сумесная камісія Расіі і Рэчы Паспалітай, якая разглядала скаргі на дзеянні рас. войск. Яна ў асноўным кампенсавала страты толькі прыхільнікам Расіі, ужо ў снеж. 1758 хадзілі чуткі аб стварэнні канфедэрацыі супраць рас. войск у Полацкім і Віцебскім ваяв.

Увесну 1759 рас. армія пачала новае наступленне за р. Одэр. Нягледзячы на паражэнні, Прусія знайшла сілы наносіць удары ў адказ, і ў 1759 прускія войскі ўпершыню ўвайшлі ў Вял. Польшчу. Падканцлер ВКЛ М.Сапега лічыў неабходным каралю прыехаць у Рэч Паспалітую і стварыць канфедэрацыю супраць прусакоў. Прусія заявіла, што ўводзіць войскі ў Вял. Польшчу для разбурэння рас. магазінаў (складоў). Урад Рэчы Паспалітай зрабіў выгляд, што задаволены прускімі тлумачэннямі, і Рэч Паспалітая зноў захавала нейтралітэт. Чартарыйскія, незадаволеныя супрацоўніцтвам Расіі з каралеўскім дваром, у 1760 зблізіліся з Францыяй і прафранцузскай партыяй Браніцкага. У выніку каралеўскі двор імкнуўся з дапамогай зрыву пасольскіх соймікаў перашкодзіць Браніцкаму і Чартарыйскім атрымаць перавагу на сойме. У ВКЛ па загаду М.К.Радзівіла была сарвана значная колькасць соймікаў (віленскі, вількамірскі, троцкі, упіцкі, навагародскі, берасцейскі, мсціслаўскі, рэчыцкі і інш.). На большасці соймікаў, аднак, «Фаміліі» і Браніцкаму ўдалося правесці выбар сваіх прыхільнікаў пасламі на сойм. У выніку напружанай сітуацыі сойм 1760 быў сарваны. У час выбараў на Трыбунал ВКЛ 1761 каралеўскі двор усімі сіламі імкнуўся дамагчыся аслаблення «Фаміліі». У выніку на выбарах перамаглі Радзівілы. У 1762 умацаваліся Чартарыйскія і аслаблі пазіцыі каралеўскага двара. У ВКЛ смерць М.К.Радзівіла дапамагла Чартарыйскім перамагчы на Трыбунале ВКЛ 1762. Радзівілы, аднак, хутка аднавілі сваю моц. Ужо ў час выбараў на сойм 1762 у ВКЛ былі абраны ў асноўным радзівілаўскія прыхільнікі. К.С.Радзівіл дапамагаў, але ў выніку процідзеяння Чартарыйскіх сойм быў сарваны. Найб. аслабілі пазіцыі каралеўскага двара перамены на міжнар. арэне. Пасля ўступлення на рас. трон у канцы 1761 прусафіл Пётр III спыніў баявыя дзеянні і вярнуў Прусіі ўсе занятыя тэрыторыі, а 24.4.1762 заключыў з ёю саюзны дагавор. Аб выхадзе з вайны аб'явіла Швецыя. Фрыдрых II з дапамогай рас. войск выціснуў аўстрыйскія войскі з Сілезіі і Саксоніі. З уступленнем на рас. трон у ліп. 1762 Кацярыны II Расія разарвала саюз з Прусіяй і прыпыніла ваеныя дзеянні. Усе рас. войскі былі выведзены з тэатра ваенных дзеянняў і праз Рэч Паспалітую ў кастр. 1762 вярнуліся ў Расію. С.в. скончылася Губертусбургскім мірам, заключаным 4.2.1763 з аднаго боку Прусіяй, а з другога Аўстрыяй і Саксоніяй. Згодна з ім Сілезія і графства Глац канчаткова прызнаны ўладаннямі Прусіі. Для Рэчы Паспалітай С.в. прынесла зруйнаванне маёнткаў у Вял. Польшчы і ВКЛ, абясцэньванне грошай, знішчэнне гандлю ВКЛ праз Каралявец, дэмаграфічныя страты, аслабленне суверэнітэту з-за ўваходжання рас. і прускіх войск.

*Літ.*: Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. Cz. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Яго ж. Od Sobieskiego do Kościuszki. Kraków, 1921; Яго ж. Fryderyk Wielki a Polska. Poznań, 1981; Czeppe M. Kamaryla pana z Dukli: Kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha, 1750—1763. Warszawa, 1998; Носов Б.В. Установление российского господства в Речи Посполитой 1756—1768 гг. М., 2004.

***Андрэй Мацук.***

**Сямковіч** (Semkowicz) Уладзіслаў Аляксандр (8.5.1878, г. Львоў, Украіна—19.2.1949), польскі гісторык. Правадзейны чл. Польск. АН у Кракаве (1923), д-р габілітаваны (1909), праф. звычайны (1919). Скончыў Львоўскі ун-т (1903). Працаваў выкладчыкам гімназій, у 1909—16 прыват-дацэнт Львоўскага ун-та. У 1916—39 праф. Кракаўскага ун-та, загадчык кафедры дапаможных гіст. навук і сярэдневяковай гісторыі. У 1921 эксперт польскай дэлегацыі на мірных перагаворах у Рызе. З 1923 нам. старшыні, у 1933—45 старшыня Гіст. камісіі Польск. АН у Кракаве, у 1935—37 старшыня Этнаграфічнай камісіі. У 1939—40 зняволены фашыстамі ў канцлагер Заксенгаўзен. У 1945—47 дырэктар 2-га аддзела Польск. АН. У 1908—15 рэдактар час. «Miesięcznik Heraldyczny», у 1908—25 — час. «Rocznik Towarzystwa Heraldycznego» (пасля «Rocznik Polskiego Towarzystwa Heraldycznego») у Львове. Вывучаў генеалогію, геральдыку, сфрагістыку, гіст. геаграфію і картаграфію сярэдневяковай Польшчы і ВКЛ. Аўтар прац па дыпламатыцы ВКЛ, генеалогіі Радзівілаў, інш. родаў ВКЛ, якія ўдзельнічалі ў заключэнні Гарадзельскай уніі 1413. Вывучаў архіўныя зборы ў Вільні, Нясвіжы, Маскве, С.-Пецярбургу, разам з С.Кутшэбам выдаў зборнік дакументаў *«Акты уніі Польшчы з Літвою 1385—1791»* (1932), разам з Я.Фіялкам — *«Кодэкс дыпламатычны Віленскай кафедры і дыяцэзіі»* (1932—48).

*Тв.*: Braterstwo szlachty polskiej z bojarstwem litewskim w unii horodelskiej 1413 roku // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa etc., 1914; W sprawie początków szlachty na Litwie i jej ustroju rodowego // Kwartalnik Historyczny. 1915. Z. 1/4; Przywileje Witolda dia Moniwida starosty wileńskiego i testament jego syna Jana Moniwidowicza // Ateneum Wileńskie. 1923. R. 1; Hanul, namiestnik wileński (1382—1387) i jego ród // Там жа. 1930. Z. 1—2; Nieznane nadania Witolda dla osób prywatnych // Там жа. Z. 3—4; Sfragistyka Witolda // Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne. 1930. R. 13; Encyklopedia nauk pomocniczych historii. 5 wyd. Kraków, 1946; Rozwój nauk pomocniczych historii



w Polsce. Kraków, 1948; Paleografia łacińska. Kraków, 1951; O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3.

*Літ.*: Semkowiczowa J. Zestawienie biobibliograficzne poświęcone życiu i twórczości Władysława Semkowicza. Kraków, 1966.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сяніцкія**, шляхецкі род герба «Бонча». Найб. вядомыя:

Крыштоф Казімір (1671—1711), сын Веспасіяна. Вучыўся ў Каралявецкім і Лейдэнскім ун-тах. Пасля вяртання ў 1695 дваранін Аўгуста II, харужы ноўгарад-северскі з 1700, адміністратар Магілёўскай эканоміі з 1702; пасол на сойм 1703. У час *Паўночнай вайны 1700—21* удзельнічаў у *Быхава аблозе 1702*, пасля ўзяцця горада губернатар Быхава, адміністратар Быхаўскага графства. З 1703 генерал-маёр войска ВКЛ, мечнік ВКЛ, з 1706 генерал артылерыі ВКЛ, рэгіментар Бел. дывізіі. Стараста чачэрскі, ліпнішскі, геранёнскі, кіраваў Шаўліскай эканоміяй. Удзельнічаў у стварэнні *Сандамірскай канфедэрацыі* ў падтрымку Аўгуста II, ваяваў са шведамі ў Жамойці, Курляндыі і Польшчы. Пасля прыходу да ўлады ў 1706 караля Станіслава Ляшчынскага застаўся генералам артылерыі, але страціў пасаду мечніка. У 1707 перахапіў грашовы абоз рас. арміі, схаваўся ў Быхаве, дзе быў аблажаны (гл. *Быхава абарона 1707*). Быў вымушаны капітуляваць, разам са стрыечным братам Людвікам вывезены ў Маскву, пасля высланы ў Сібір, дзе і памёр.

Людвік (2.2.1677—пасля 1754), сын Паўла, стрыечны брат Крыштофа Казіміра. Вучыўся ў евангелісцкай школе ў Вільні. Удзельнічаў у вайне бел. шляхты супраць Сапегаў. У Паўн. вайну 1700—21 цесна супрацоўнічаў з братам, атрымаў ад яго пасады адміністратара Магілёўскай эканоміі і віцэ-губернатара Быхава. Палкоўнік, камандаваў Бел. дывізіяй. У 1707 удзельнічаў у захопе рас. грашовага абозу і абароне Быхава. Пасля капітуляцыі разам з братам высланы ў Сібір (Табольск, Самараўскі Ям, Якуцк). Вярнуўся ў 1722, удзельнічаў у абранні ў 1733 каралём Станіслава Ляшчынскага, цівун рэтаўскі ў 1736—46. Аўтар мемуараў «Дакумент асаблівай міласэрнасці божай, што цудоўна пераводзіць з кальвінскай секты пэўнага слугу і паклонніка божага ў Хрыстовы касцёл» (Вільня, 1754), дзе змясціў апісанне Сібіры, веры і звычаяў мясцовых народаў, даў звесткі пра Японію.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сянно** (цяпер горад, цэнтр Сенненскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Віцебскім пав., на беразе воз. Сянно (Сенненскае). Упершыню ўпамінаецца ў 1534, калі ў вайну ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай 1534—37 С. было занята войскам кн. Б.Гарбатага і спалена (1535). У 1542—45 упамінаецца маёнтак С. ў судовых справах паміж яго ўладальнікамі кн. Дз.Відуніцкім-Любецкім, пасынкам Р.І.Сенненскім-Грыбоўскім і плябанам Аболецкага касцёла за наезды і рабункі апошняга на землях маёнтка. У купчай, дадзенай у 1595 фелінскім старастам М.Д.Курчам сыну Яўстахію, упамінаюцца маёнтак, замак і мястэчка С. з «цэрквамі і іх фундушамі». Замак размяшчаўся на ўзвышшы, на месцы стараж. капішча, каля 2 серных крыніц і быў абведзены ровам, цераз які да брамы вёў пад'ёмны мост; побач была капліца (не захавалася). Замак праіснаваў да 18 ст. З 1-й пал. 17 ст. С. належала Сапегам, з 2-й пал. 17 ст. — Агінскім. У 1609 Я.Курч пабудаваў мураваны касцёл (у 1772 абноўлены Агінскімі). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у наваколлі С. маскоўскія стральцы пад камандаваннем В.Пушачнікава разграмілі ў 1658 атрады мясц. шляхты на чале з Я.Юндзілам, якія вялі партызанскія дзеянні ў тыле рас. войск. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Васіль Удальцоў.***

**Сяняўскія**, шляхецкі род герба «Ляліва». Паходзілі ад Гунтара (?—каля 1494), які валодаў в. Сянява на р. Сан (адсюль прозвішча). Заснавальнікам магутнасці роду стаў Мікалай (1489—21.2.1569), ваявода рускі з 1553, гетман вял. каронны з 1563. Найб. вядомыя:

Мікалай (каля 1520—1584), сын Мікалая. Кашталян камянецкі з 1576, гетман польны каронны з 1575.

Пракоп (?—9.1.1627), сын Адама Гераніма. Харужы каронны з 1622. У 1623 ажаніўся з дачкою ваяводы троцкага А.Хадкевіча Ганнай, якая прынесла ў род С. вял. ўладанні на Беларусі (Мыш, Шклоў і інш.).

Адам Геранім (1623/4—25/26.1.1650), сын Пракопа. Стараста львоўскі з 1648 і пісар польны каронны з 1649. У спадчыну ад маці атрымаў маёнткі на Беларусі, пісаўся графам «на Шклове і Мышы». У 1648—50 удзельнічаў у войнах з казакамі і крымскімі татарамі.



**Сянно**. Малюнак 2-й пал. 19 ст.



Да арт. **Сяняўскія**. М.Г.Сяняўскі.

Мікалай Геранім (1645—5.12.1683), сын Адама Героніма. Ваявода валынскі і гетман польны каронны з 1683, граф «на Шклове і Мышы». З маёнткаў выстаўляў у войска 3 конныя харугвы і драгунскі полк, на чале якіх ваяваў з казакамі, крымскімі татарамі і туркамі.

Адам Мікалай (1666—18.2.1726), сын Мікалая Гераніма. Ваявода белзскі ў 1692—1710, гетман польны каронны з 1702, гетман вял. каронны з 1706, адначасова кашталян кракаўскі з 1710. Удзельнічаў у Венскай бітве 1683. У 1697 падтрымліваў кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай французскага прынца Канці, пазней прызнаў Аўгуста II, на яго баку ваяваў са шведамі ў час Паўн. вайны 1700—21. Пасля адрачэння ў 1706 Аўгуста II карыстаўся падтрымкай цара Пятра І як прэтэндэнт на трон Рэчы Паспалітай. Камандаваў войскам *Сандамірскай канфедэрацыі* ў дзеяннях супраць Станіслава Ляшчынскага. Перайшоў у апазіцыю да Аўгуста II. У 1716 арыштаваны *Тарнагродскай канфедэрацыяй*, а «нямы» сойм 1717 абмежаваў яго ўладу над войскам. На Беларусі валодаў мяст. Новая Мыш з замкам, вёскамі ў Навагародскім ваяв., мяст. Шклоў з навакольнымі вёскамі. Пакінуў адзінага нашчадка — дачку Соф'ю (1699—1771), у 1-ым шлюбе замужам за С.Э.Дэнгафам, у 2-м — за Аўгустам Чартарыйскім, ваяводам рускім, да якога перайшлі ўладанні роду С.

***Міхаіл Красноў.***

**сярэбшчына**, серабшчызна, 1) грашовы падатак у ВКЛ у 14—16 ст. Упамінаецца з 1387. Збіралася з усяго насельніцтва ў манеце («серабром») на карысць дзярж. скарбу, пакуль Казімір IV *прывілеем 1447* не вызваліў ад яе выплаты баяр. З таго часу С. збіралася землеўладальнікамі на сваю карысць. Адзінка абкладання — дым або саха. Пастунова злілася з інш. грашовай данінай. 2) Надзвычайны дзярж. грашовы падатак на ваен. мэты ў 15—16 ст. Напачатку збор С. прызначаўся вял. князем з Радаю ВКЛ, потым соймам. З 1473 да 1566 прызначалася 15 разоў і выбіралася на працягу 26 гадоў; усяго збіралася больш за 30 разоў. Выплачваць С. павінны былі землеўладальнікі, дзярж. сяляне, непрывілеяваныя мястэчкі, гарады, якія валодалі палявымі валокамі. Памер С. кожны раз вызначаўся асобна, складаў 5—30 грошаў з сахі, 48 — з валокі.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 717—728, 741—765.

***Валерый Пазднякоў.***

**Сясіцкія** (Даўмонты-Сясіцкія), шляхецкі род герба «Галава буйвала». Першапачатковае прозвішча Даўмонты, ад родавага маёнтка Сясікі ў Вількамірскім пав. пачалі звацца С. У 17 ст. ўзнікла легенда аб паходжанні роду ад літ. (уцянскіх) князёў, некаторыя прадстаўнікі роду карысталіся гербам «Гіпацэнтаўр» з княжацкай шапкай. Найб. вядомыя:

Мальхер (Мельхіёр; ?—1637?), сын Каспера Мальхеравіча, падкаморыя вількамірскага. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1621, 1632, пасол на сойм 1632, маршалак вількамірскі з 1623. Удзельнічаў у вайне са Швецыяй 1600—29.

Казімір Уладзіслаў (Казімір Крыштоф; ?—26.5.1691), брат



Да арт. **Сяняўскія**. А.М.Сяняўскі.

Мальхера. З маладосці служыў у войску ВКЛ. Відаць, удзельнічаў у вайне з Расіяй 1632—34, ваяваў з казакамі Б.Хмяльніцкага. Прыхільнік біржанскай (кальвіністкай) лініі Радзівілаў, з імі падпісаў акт *Кейданскай уніі 1655* пра унію ВКЛ са Швецыяй. У 1656 палкоўнік войска ВКЛ, ваяваў са шведамі ў Літве, падначалены В.Гасеўскага ў час баявых дзеянняў у Прусіі і Інфлянтах. У час вайны з Расіяй 1654—67 ваяваў у 1660—61 і 1663—64. Вількамірскі падстолі ў 1650—59, харужы ў 1659—67, стараста ў 1670—72/73, кухмістр ВКЛ з 1667. Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1638—49 і яго маршалак у 1676, пасол на соймы 1652—90. Галасаваў за абранне каралямі Яна II Казіміра Вазы, Міхала Вішнявецкага і Яна III Сабескага; у 1660—70-х г. прыхільнік магнацкай групоўкі Пацаў, з 1680-х г. — Сапегаў. Валодаў маёнткамі ў Віленскім, Троцкім і Берасцейскім ваяв.

Міхал (?—22.10.1713), сын Казіміра Уладзіслава. Служыў у войску, у 1670—80-х г. ваяваў з туркамі. Вількамірскі харужы з 1667 і стараста з 1672/73, ваявода менскі ў 1681—98 і мсціслаўскі з 1698. Пасол на соймы 1670—79, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1692 і 1699. Прыхільнік групоўкі Пацаў, з 1680-х г. — Сапегаў.

***Валерый Пазднякоў.***











**тайнапіс**, шыфраванае пісьмо. Узнік у дыпламатычнай перапісцы, развіваўся таксама як забава пісцоў, якія пераўтваралі ў загадку сваё імя ці кароткае пасляслоўе. Існуе некалькі сістэм Т. Сістэма замены адных літар іншымі — літарэя (ырорыя) — падзяляецца на простую («тарабарскае пісьмо») і мудрую. У простай літарэі (вядома з 13 ст.) без замены пакідаліся ўсе галосныя, а таксама ъ, ь, ѕ і ѳ. Усе астатнія літары ставіліся ў 2 шэрагі па 10 літар, адна літара пад іншай. Літары верхняга шэрагу размяшчаліся ў прамым, літары ніжняга шэрагу — у адваротным алфавітным парадку, і замянялі адна другую пры пісьме. Запіс, зроблены простай літарэяй, пакінуў Іван Праскура, які працаваў у Супрасльскім манастыры ў канцы 16 ст.: «мот 93, месяца июля 26 дня, Ишап Пмолтума» («рок 93, месяца июля 26 дня, Иван Проскура»). Складаная, або мудрая, літарэя заключалася ў тым, што літары 2-га шэрагу стаялі ва ўмоўным парадку, аб якім ведалі абодва бакі. У некаторых варыянтах складанай літарэі ў абодвух шэрагах маглі размяшчацца ў розным парадку ўсе літары, пры гэтым замене падвяргаліся як галосныя, так і зычныя.

У аснове лікавай сістэмы Т. ляжаць лічбавыя значэнні кірылічных літар. Гэта сістэма мела лічбавую, апісальную і значковую разнавіднасці. У лічбавай разнавіднасці (сустракаецца з 14 ст.) асобныя літары разглядаліся як лічбы, якія раскладваліся на складовыя. Напрыклад, літара м, якая мела лічбавае значэнне 40, магла раскладацца на кк (2 разы па 20). Адзінка (а) і літары, якія не мелі лічбавага значэння, пакідаліся без змен. Межы асобных літар, як правіла, абазначаліся раздзяляльнымі знакамі. Часта гэта разнавіднасць выкарыстоўвалася разам з сістэмай замены адных літар іншымі. Напрыклад: «А писалъ книгы си многогр?шныи рабъ Б(ож)ии · и дг · кка и кіо. Арип» (апошнія 2 словы — «Измаило. Амин»). Апісальная разнавіднасць Т. вядома з 14 ст. У ёй літары, якія мелі лічбавае значэнне, перадаваліся словамі. Пры значковай разнавіднасці (сустракаецца з 16 ст.) лічбавыя значэнні літар абазначаліся значкамі: адзінкі — кропкамі ці вертыкальнымі рыскамі, дзесяткі — гарызантальнымі рыскамі, сотні — кружкамі. Літары, якія не абазначалі лічбы, пісаліся без змен.

Сістэма зменены знакаў вядома з канца 14 ст. Існавалі 2 яе разнавіднасці: сістэма знакаў, якія зменены шляхам дабаўленняў да звычайных напісанняў, змены становішча літары ў радку, частковa ўрэзкі яе частак; «паўсловіца», што пабудавана паводле прынцыпу, блізкаму да грэчаскай тахіграфіі, г.зн. калі замест літары пісалася толькі яе частка (у асобных выпадках літары пераварочваліся ў адваротны бок ці дэфармаваліся). Першая разнавіднасць сустракаецца ў Анежскім (Мсціслаўскім) псалтыры 1395 і належала яго перапісчыку Смаляніну Луцэ. У сістэме чужых письмен літары адной пісьмовай сістэмы замяняліся на літары другой. У якасці апошняй у 12—13 і з пач. 16 ст. выступала глаголіца, а ў з 15 ст. таксама і грэчаскія літары. Пры сістэме зваротнага пісьма тэкст чытаўся з канца (справа налева). Пісец Макарый Львовіч з Гальшан пакінуў у Пролазе 1530 запіс: «ъшорг аз ъшург ъмад умот ътетчорп еис отк» (трэба чытаць: «кто сие прочтетъ тому дамъ грушъ за грошъ»). У акравершы зашыфраваныя словы складаліся з першых літар радкоў верша. Акравершам у 16 ст. карыстаўся, напрыклад, Ф.Скарына.

*Літ.*: Соболевский А.И. Славяно-русская палеография. 2 изд. СПб., 1908; Сперанский М.Н. Тайнопись в югославянских и русских памятниках письма. Л., 1929; Черепнин Л.В. Русская палеография. М., 1956; Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1978; Тихомиров М.Н., Мурavьёв А.В. Русская палеография. 2 изд. М., 1982; Щепкин В.Н. Русская палеография. 3 изд. М., 1999; Лёвочкин И.В. Основы русской палеографии. М., 2003.

***Аляксандр Груша.***

**таксатарскі суд**, гл. *Эксдывізарска-таксатарскі суд.*

**талака**, даўні народны звычай калектыўнай дапамогі ў гаспадарчых работах у беларусаў і інш. славянскіх народаў. Звычайна на адзін дзень запрашалі сваякоў, суседзяў, аднавяскоўцаў для тэрміновай ці працаёмкай работы, якая вымагала шмат работнікаў і цягла: зрабіць хату, скасіць сена,

зжаць жыта, вывезці лес і інш. Дапамагалі найперш пагарэльцам, удовам, бясконным. Т. звычайна заканчвалася застоллем, спяваннем талочных песень. У Т. выяўляліся рысы стараж. калектывізму і рэшткі абшчыннага побыту. У час прыгону паны выкарыстоўвалі нар. звычай і ўводзілі прымусовыя Т. для выканання тэрміновых с.-г. работ звыш абавязковых сял. павіннасцей, т.зв. *згоны*, *гвалты*.

**Талачын** (цяпер горад, цэнтр Талачынскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім пав., на р. Друць. Упершыню ўпамінаецца ў 1433, уваходзіў у склад *Друцкага княства*. Належаў князям Друцкім (з пач. 16 ст. *Друцкім-Талачынскім*). З сярэдзіны 16 ст. ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., штогод праводзіліся 3 кірмашы. З канца 16 ст. належаў Сапегам, пасля Сангушкам. У 1604 Л.І.Сапега заснаваў базыльянскі манастыр. У 1621 у Т. 314 дамоў. У 1634 атрымаў магдэбургскае права. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* спалены, захаваліся 142 дамы. У 17 ст. належаў Сапегам, у пач. 17 ст. заснаваны касцёл. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) усх. частка мястэчка ў складзе Рас. імперыі (называлася Стары, ці Рускі, Т., да 1793 пагранічны пункт з мытняй), а заходняя, што знаходзілася за р. Друць, — Зарэчны, ці Новы, Т. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) зах. частка мястэчка таксама ў складзе Рас. імперыі.

**Талачынскія**, княжацкі род, гл. *Друцкія-Талачынскія*.

**талер**, буйная высокай пробы сярэбраная манета еўрапейскіх краін у 16—18 ст., грашова-лікавая адзінка, вагавая адзінка для серабра. Слова «Т.» — частка нямецкага слова іаахімсталергульдэн — назва сярэбраных гульдэнаў, якія біліся ў Яхімаве (Чэхія) з 1519. У розных варыянтах напісання тэрмін «Т.» сустракаецца ў бел. пісьмовых крыніцах 2-й пал. 16—1-й пал. 18 ст. («талер», «таляр», «тарель», часта з удакладненнямі «битый», «твардый», «целковый», «имперыальный», «старый», «новый»). З 2-й трэці 17 ст. бел. дакументы звычайна не залічвалі да Т. «ляўковыя», ці «ляўкі» — лёвен-



1


2


3


4


5


6


7


8

**Талеры**: 1 — Стафан Баторый (1586); 2 — Жыгімонт III (1628); 3 — Уладзіслаў IV (1634); 4 — Ян II Казімір (1649); 5 — Аўгуст III (1737); 6–7 — Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1766, 1788); 8 — Таргавіцкая канфедэрацыя (1793).



даальдэры Нідэрландскай рэспублікі з масай патагона, але з утрыманнем серабра на 12,5% менш. З'яўленне Т. выклікала пераход ад перыяду гроша да талернага перыяду ў гаспадарцы еўрапейскіх краін. Першыя Т. адпавядалі залатому дукату (да 1559). У 1484 Т. выбіты ў Цыролі, у 1500 у Саксоніі. Звычайная лігатурная маса найб. распаўсюджаных на Беларусі Т. Нідэрландаў 17 ст. 28—29 г, проба 875—750 праміле, дыяметр 38—44 мм, таўшчыня 2,0—2,5 мм.

Выпуск Т. вял. князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста ў 1547 быў дэкларацыйным, сапраўднасць Т. 1564—65 (т.з. паўкопкі) выклікае недавер (неадпаведная эпосе стылістыка, нязвыклы набор геральдычных выяў). Т. Стафана Баторыя 1580 меў вагу 28,8 г, пробу 840 праміле, курс 35 грошаў. У Рэчы Паспалітай акрамя дзярж. манетных двароў Кароны і ВКЛ Т. білі гарадскія манетныя двары Гданьска, Торуня, Эльблёнга. Т. Рэчы Паспалітай паводле ардынацыі 1627 пры лігатурнай масе 28,8 г мелі пробу 875 праміле, з 1749—53 — лігатурную масу 29,2 г, пробу 757 праміле, з 1766 — лігатурную масу 28,1 г, пробу — 833 праміле, з 1787 — лігатурную масу 27,6 г, пробу 813 праміле, з 1794 — лігатурную масу 24,1 г, пробу 687 праміле. Зніжэнне ўтрымання серабра ў Т. ў 2-й пал. 18 ст. было вымушаным з-за агрэсіўнай манетнай палітыкі Прусіі. У канцы 16 ст. курс айчынных і замежных Т. быў 40 грошаў, у пачатку 17 ст. — 60 грошаў, у 2-й чвэрці 17 ст. — 90 грошаў, у канцы 17 ст. — 180 грошаў меднаю манетаю, у 1-й чвэрці 18 ст. — 240 грошаў з-за паніжэння ўтрымання серабра ў разменных наміналах і абясцэнення медных манет. З 1766 Т. цесна звязаны з наборам ніжэйшых наміналаў і роўны 8 злотым альбо 32 грошам у сярэбранай ці 240 грошам у меднай манеце.

Іспанскія Т. («большие филипки», гл. *Філіпок*) з контрмаркамі Жыгімонта II Аўгуста 1564 мелі прымусовы курс у 60 грошаў польскіх ці 48 грошаў літоўскіх пры ўтрыманні серабра ў 4/7 ад абвешчанага курсу, што дало скарбу прыбытак каля 600 тыс. злотых. Філіпкі — вымушаны выпуск з рысамі дзярж. пазыкі ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82* — былі выкуплены да 29.9.1567. На Беларусь траплялі *яфімкі з прыкметаю* — еўрапейскія Т. з маскоўскаю контрмаркаю з датай «1655», якія былі ў абарачэнні да 1659. У скарбах Т. звычайна сустракаюцца з паўнавартаснымі высакапробнымі манетамі ніжэйшых наміналаў, знаходкі разам з разменнаю манетаю рэдкія. Афіцыйна дазволена з 1620 увозіць з-за мяжы толькі Т. і дукаты. Т. у манетным фондзе Рэчы Паспалітай пераважна замежнага паходжання. Большая частка прывазных Т. у 17 ст. адносіцца да Злучаных правінцый Паўн. Нідэрландаў, потым ідуць Іспанскія Нідэрланды і Ніжняя Саксонія.

*Літ.*: Mikołajczyk A. Reforma talarowa w Europie. Warszawa, 1978; Яго ж. Obieg pieniężny w Polsce środkowej w wiekach od XVI do XVIII. Łódź, 1980.

***Іван Сінчук.***

**Талочкі** (Буйніцкія), княжацкі род. Паходжанне невядома, магчыма, Т. — адгалінаванне полацкіх Рурыкавічаў. У канцы 14 ст. князь Юрый Т. атрымаў ад вял. князя літоўскага Вітаўта Рагачоўскую воласць. У сярэдзіне 15 ст. сын Юрыя Фёдар Талочкавіч прадаў вотчынны маёнтак Высокае пану Гаштольду. Пляменнік Фёдара Леў меў маёнткі Гатушычы і Буйнічы, ад назвы апошняга ўтворана прозвішча Буйніцкія. На яго сыне Аляксею (?—1505) род Т. у мужчынскай лініі згас, а радавыя маёнткі перайшлі да шваграў Аляксея — Кандрата Івашкевіча, Аляксандра Солтанавіча і князя Івана Крошынскага.

***Валерый Пазднякоў.***

**Талстой** (Толстой) Пётр Андрэевіч (1645—люты 1729), расійскі дзяржаўны дзеяч, дыпламат, падарожнік. Граф (1724). У час Маскоўскага паўстання 1682 падбухторваў стральцоў супраць баяр Нарышкіных і Пятра І, пасля перайшоў на бок Пятра І. Удзельнічаў у 2-м Азоўскім паходзе (1696), вывучаў у Італіі марскую справу (1697—98). У 1702—14 пасол у Турцыі, з 1714 сенатар. У 1716—17 суправаджаў Пятра І у яго паездцы па Еўропе. У 1718 узначальваў следства па справе царэвіча Аляксея. У Персідскім паходзе 1722—23 кіраваў канцылярыяй Пятра І. У 1725 садзейнічаў узыходжанню на прастол Кацярыны І. З 1726 чл. Вярхоўнага тайнага савета. Разышоўся з А.Д.Меншыкавым па пытанні аб пераходзе ў спадчыну прастола. У кастр. 1727 арыштаваны і разам з сынам Іванам зняволены ў Салавецкі манастыр, дзе памёр.

У 1697 на шляху ў Італію праехаў праз Беларусь (Магілёў, Барысаў, Менск, Койданава, Слонім, Мір, Свіслач, Бельск; на зваротным шляху наведаў Оршу), аб чым напісаў у сваім дзённіку. Найб. ўвагу звяртаў на храмы і багаслужэнне, на адрозненне веравызнанняў. Сярод бел. гарадоў найб. вылучыў Магілёў: «Той горад Магілёў значна больш за Смаленск», на той час у горадзе было 11 правасл. цэркваў і 2 касцёлы, 20 тыс. хрысціянскіх мяшчан і 10 тыс. яўрэяў. Апісанне Т. сведчыць, што тагачасны Магілёў быў буйным і ўпарадкаваным горадам. У Барысаве Т. апісаў замак, правасл. манастыр і касцёл. Менск, паводле яго апісання, саступаў Магілёву; падрабязна апісаны каталіцкія, уніяцкія і правасл. манастыры. У Койданаве звярнуў увагу на вял. колькасць камяніц: «Мястэчка Койданава каменнае, і вежы ў замку каменныя, дамоў багатых у тым мястэчку шмат». Пра Слонім уражанне было іншае: «Места немалое, а пабудовы ў ім добрай няма». У Міры падрабязна апісаў звярынец Радзівілаў і зафіксаваў стан Мірскага замка. У Свіслачы прыкмеціў «дом панскі вялікі і сажалкі навокал». Ва ўсіх бел. гарадах Т. апісваў алтары і прастолы ў храмах, адзенне святароў, набажэнствы, добраўпарадкаванне вуліц, кірмашы і інш. З дзённіка вынікае, што ў некат. гарадах рымска-каталіцкая і уніяцкая цэрквы мелі ўжо вял. ўплыў (у Менску 6 каталіцкіх кляштараў і 2 базыльянскія манастыры, 1 правасл. манастыр, у Міры — касцёл і уніяцкі храм), аднак у некаторых гарадах (Магілёве, Барысаве, Оршы) уніятаў яшчэ не было, ва уніяцкіх цэрквах захоўваўся грэчаскі абрад. Усе гарады Т. параўноўваў з Масквой. Аўтару ўласцівы назіральнасць, імкненне зразумець сэнс убачанага, добразычлівасць да новых знаёмых.

*Тв.*: Путешествие стольника П.А.Толстого по Европе, 1697—1699. М., 1992.

*Літ.*: Павлов-Сильванский Н.П. Граф П.А.Толстой // Павлов-Сильванский Н.П. Соч. СПб., 1910, Т. 2; Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; Павленко Н.И. Вокруг трона: Птенцы гнезда Петрова. Страсти у трона. М., 1999.

***Валерый Ярмоленка.***

**Танд** (Tende) Гаспар дэ (псеўд. д э А т в і л ь; 1618, г. Ман, Францыя — 1697), французскі падарожнік і пісьменнік. Служыў пры двары караля польскага і вял. князя літоўскага Яна II Казіміра Вазы. Пасля адрачэння караля ад трона ў 1668 вярнуўся ў Францыю. У 1674 зноў ездзіў у Рэч Паспалітую ў якасці сакратара французскага пасла. У 1684 выдаў у Парыжы кн. «Гістарычныя рэляцыі пра Польшчу» (перавыдадзена некалькі разоў на розных мовах). Звесткі пра Беларусь у ёй пададзены з пункту гледжання падарожніка. Так, Т. раіў падарожнікам, якія будуць наведваць гэтую краіну, браць з сабой харчовыя прадукты, віно, міску, лыжку і нож, бо падарожнікам часта давядзецца начаваць пад павеццю, побач з коньмі, каровай і бочкамі з капустай.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Танэр** (Tanner) Бернгард Леапольд Францішак, чэшскі падарожнік 2-й пал. 17 ст., езуіт. У 1676 прыехаў з Прагі ў Рэч Паспалітую і паступіў на службу да валынскага ваяводы М.Е.Чартарыйскага. Разам з ім у 1678 удзельнічаў у пасольстве ў Маскву. Маршрут пасольства ішоў праз Берасце, Ружаны, Нясвіж, Менск, Барысаў, Крупкі, Галоўчын, Магілёў. Вяртаўся Т. праз Оршу, Менск, Койданава, Мір, Слонім, Пружаны і Берасце. Ён вёў запісы падарожжа, апісваў бел. гарады, землі і дарогі. Адзначыў, што ў бел. гарадах шмат мураваных дамоў і крам, а драўляныя дамы добрай работы, што купцы і багатыя мяшчане мелі каштоўныя посуд і нават карціны. Т. адзначаў гасціннасць жыхароў Магілёва і Менска. Менск, па яго словах, горад прывабны, у ім шмат цэркваў, лад жыцця і адзенне жыхароў, асабліва жаночае, у параўнанні з інш. гарадамі, больш прыгожыя. Т. спадабалася менская ратуша, акружаная мноствам крам. Орша пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 была ў руінах. У 1689 у Нюрнбергу выдаў свае запісы пра падарожжа.

*Тв.*: Описание путешествия польского посольства в Москву в 1678 г. // Чтения в О-ве истории и древностей российских. 1891. Кн. 3.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Тапольская** (Topolska, сапр. П я х о в я к, Piechowiak) Марыя Барбара (н. 21.5.1938, в. Кажмінак Вялікапольскага ваяв., Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1984), праф. надзвычайны (1997). Скончыла ун-т імя А.Міцкевіча ў Познані (1960). У 1973—76 ад'юнкт у Вышэйшай пед. школе пры ун-це ў Познані, выкладала гісторыю Расіі. З 1978 у Аддзяленні па вывучэнні замежнай Палоніі ў Познані (з 1992 Аддзяленне па вывучэнні нацыянальнасцей Польскай АН). З 1997 выкладае ў Ін-це гісторыі Вышэйшай пед. школы ў Зялёнай Гуры. Вывучае гісторыю культуры літ. і бел. зямель у 15—20 ст., гісторыю Вял. Польшчы, праблемы этнічнай гісторыі, культуру польскай эміграцыі. Аўтар манаграфій па гісторыі Шклоўскага маёнтка ў 17—18 ст., гісторыі кніг у ВКЛ у 16—17 ст., артыкулаў па эканам. і культ. гісторыі феад. Беларусі.

*Тв.*: Związki handlowe Białorusi wschodniej z Rygą w końcu XVII i na początku XVIII w. // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. 1968. T. 29; Dobra szkłowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII w. Warszawa, 1969; Szkłów i jego rola w gospodarce Białorusi wschodniej w XVII i XVIII w. // Там жа. 1969. Т. 30; Peculiarities of the Economic Structure of Eastern White Russia in the Sixteenth — Eighteenth Centuries // Studia Historiae-Oeconomicae UAM. Poznań, 1972. Vol. 6; Biblioteki w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI i pierwszej połowie XVII w. // Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. 1983. Z. 20; Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984; Polacy w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVIII w.: Przyczynek do dziejów polskiej emigracji na wschód w okresie staropolskim // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1987. T. 3; Z dziejów kultury w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII w. // Litwa i jej sąsiedzi od XII do XX w. Poznań, 1994; Specyficzne cechy świadomości narodowej mieszkańców Wielkiego Księstwa Litewskiego w XV do XVIII w. // Наш радавод. Гродна, 1996. Кн. 7; Społeczeństwo i kultura w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII wieku. Poznań; Zielona Góra, 2002.

**Тараканскі манастыр**, мужчынскі базыльянскі манастыр у фальварку Таракань (Таракані; цяпер у межах в. Імянін Драгічынскага р-на) у 17—1-й пал. 19 ст. Знаходзіўся ў фундушавым маёнтку, нібыта дадзеным у 1517 кіеўскім мітрапалітам валынскай кашталянкай Агатай Песачынскай. Пасля заключэння Берасцейскай уніі 1596 за маёнтак ішла працяглая барацьба паміж уніяцкімі мітрапалітамі і ордэнам базыльян. Дакладная дата заснавання манастыра не вызначана. Манастыр быў адным з галоўных у базыльян, з 1656 у ім праходзілі ордэнскія кангрэгацыі. Мітрапаліт Кіпрыян *Жахоўскі* пабудаваў тут сваю рэзідэнцыю, якая пасля яго смерці дасталася базыльянскім протаархімандрытам (генералам); з 1743 тут размяшчалася адна з рэзідэнцый правінцыялаў (кіраўнікоў) Літоўскай правінцыі ордэна. Паводле хронікі Аляшэўскага (памёр у 1721), мураваныя царква св. Іасафата Кунцэвіча і жылы корпус манастыра пабудаваны ў 1710—12 генералам ордэна базыльян Львом *Кішкай*. 3-нефавая базіліка з 2-вежавым фасадам памерам 24 х 14 м і вышынёй 10 м да карніза, з разьбяным іканастасам, была аздоблена накшталт манастырскай царквы ў Беразвеччы. Прыкладна з 1780 пры манастыры існавала школа, дзе навучалі мовам, гісторыі, геаграфіі, арыфметыцы. Паводле інвентару 1821, скляпенні і сцены царквы былі размаляваны, мелася 7 алтароў, арган, жалезны каваны іканастас з пазалотай, намаляваныя на медных лістах на царскіх варотах абразы «Маці Божая», «Спас» і «Звеставанне», каваныя з жалеза балдахін і кораб амбона. У 1821 у манастыры былі 24 манахі і 23 чал. прыслугі. Паводле інвентару 1836, у храме знаходзілася шмат сярэбраных літургічных рэчаў. Да царквы прымыкаў вял. аднапавярховы манастырскі корпус, які ўтвараў квадратны двор, стаяў мураваны флігель. Бібліятэка налічвала каля 1750 кніг. Манастыру належаў фальварак Таракань (87 дамоў, 73 валокі зямлі), працавала 5 варштатаў для ткання палатна. Пасля скасавання уніі (1839) манастыр стаў месцам ссылкі непакорных святароў-уніятаў. У 1920—30-я г. тут размяшчалася с.-г. школа. У 1950-я г. будынкі разбураны.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Тараноўскі** (Тарановский) Фёдар Васілевіч [12(24).5.1875—23.1.1936], расійскі гісторык права. Правадзейны чл. Усеўкраінскай АН (1918), чл. Сербскай каралеўскай АН, чл.-кар. Балгарскай АН, д-р дзярж. права (1911), праф. ардынарны (1911). Скончыў Варшаўскі ун-т (1896), дзе пасля вык-

ладаў (з 1906 дацэнт, пасля экстраардынарны праф.).У 1906—08 праф. Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя ў Яраслаўлі. 3 1908 праф. Юр'еўскага ун-та. Адначасова прыват-дацэнт (1912) і праф. (1917) Пецярбургскага (Петраградскага) ун-та, выкладаў таксама на Вышэйшых жаночых курсах у Пецярбургу, у Аляксандраўскім ліцэі ў Царскім Сяле. У 1918—19 праф. Екацярынаслаўскага ун-та, у 1919 — Харкаўскага ун-та. У 1918 узначаліў Сац.-эканам. аддзел Усеукраінскай АН. 3 1920 праф. Бялградскага ун-та. Працы па гісторыі права Германіі, Францыі, слав. краін, ВКЛ.

*Тв.*: Обзор памятников магдебургского права западно-русских городов литовской эпохи: Историко-юридическое исследование. Варшава, 1897.

***Валерый Пазднякоў.***

**Тарасевіч** Аляксандр (Антоній; ?, мяст. Глуск— каля 1730), беларускі гравёр. Брат Л.*Тарасевіча*. Як мяркуюць, вучыўся ў гравёраў Кіліянаў у г. Аўгсбург (Баварыя). Працаваў у тэхніках афорта і разцовай гравюры. Творы Т. адметныя цэласнасцю кампазіцыі, псіхалагічнай глыбінёй і яркасцю характарыстыкі партрэтаў. У ранні перыяд дзейнасці (у Глуску) стварыў цыкл з 40 гравюр (афортаў) да аўгсбургскага выдання кн. «Rosarium» («Разарыум...», 1672). У шэрагу гравюр адлюстраваў побыт сялян і навакольную прыроду (асабліва ў 12 гравюрах «Поры года»). Стварыў эстампы «Радаслоўнае дрэва А.Палубінскага» (1675), партрэты М.Слупскага (1677), М.Паца (1686), І.Перахрэста (1689), В.Галіцына (1691). У 1680-я г. працаваў у Вільні, выканаў партрэты менскага харужага К.Клакоцкага, караля Яна III Сабескага, потым пераехаў у Кіеў, прыняў манаства і імя Антоній. 3 творчасцю Т. звязаны значныя дасягненні мастацтва барока ў бел. гравюры.



А.**Тарасевіч**. А.К.Завіша. Гравюра. Канец 17 ст.

*Літ.*: Степовик Д. Олександр Тарасевич. Київ, 1975.

***Віктар Шматаў.***

**Тарасевіч** Лявонцій (1650?—1710?), беларускі гравёр. Брат А.*Тарасевіча*. Вучыўся, як мяркуюць, у гравёраў Кіліянаў у г. Аўгсбург (Баварыя). Працаваў у тэхніцы афорта і разцовай гравюры на медзі. Творы адметныя дакладнасцю малюнка, разнастайнасцю штрыхоўкі, жыццёвасцю вобразаў, цэласнасцю кампазіцыі. Ранні перыяд творчасці звязаны з Беларуссю і Літвой: «Апосталы Пётр і Павел з цудадзейным абразом Жыровіцкай Багародзіцы», партрэты К.С.Радзівіла, М.Слупскага (1677), ашмянскага падстолія Е.Л.Зямлі, смаленскага біскупа Б.Корвіна-Гасеўскага (канец 1690-х г.), гербы віленскага біскупа К.Бржастоўскага (1682), Агінскіх (1686) і інш., афармленне «Служэбніка» (1695); у творах шырока выкарыстаны барочныя сімвалы і алегорыі. У 1680-я г. пераехаў на Украіну, у 1688 быў запрошаны ў Маскву, дзе выканаў партрэт царэўны Соф'і. Значныя творы гэтага перыяду: гравюры да кнігі «Пацярык Пячэрскі» (1702), «Псалтыр» і «Евангелле» (абодва 1703). Іл. гл. ў т. 1, с. 115, 144, 632.

*Літ.*: Степовик Д.В. Леонтій Тарасевич і українське мистецтво бароккo. Київ, 1986.

***Віктар Шматаў.***



А.**Тарасевіч**. Асеннія работы ў полі. 1670-я г.

**тарасніца**, від гарматы малога калібру, якая выкарыстоўвалася ў 15 ст. для абароны замкаў, у т.л. на тэр. Польшчы і ВКЛ. Назва паходзіць ад слова «тарасы» (від канструкцыі замкавых сцен). Страляла свінцовымі кулямі. 3 цягам часу для паляпшэння дальнасці стральбы павялічылі даўжыню ствала і калібр; для выкарыстання ў полі Т. клалі ў ложа на колах.

**Таргавіцкая канфедэрацыя**, саюз магнатаў Рэчы Паспалітай супраць прагрэсіўных рэформ *Чатырохгадовага сойма 1788—92*, які выкарыстала Рас. імперыя з мэтай рэстаўрацыі там дзяржаўнага ладу, што існаваў да прыняцця *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Акт Т.к. падпісаны ў С.-Пецярбургу 27.4.1792, фіктыўна абвешчаны ў мяст. Таргавіца (Украіна) 14.5.1792, праз 3 дні пасля пачатку інтэрвенцыі Расіі ў Рэч Паспалітую (гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1792*). Маршалак канфедэрацыі С.Ш.Патоцкі (гл. ў арт. *Патоцкія*). Акт Т.к. называў рас. войскі сяброўскімі, скасоўваў усе рашэнні Чатырохгадовага сойма, у т.л. Канстытуцыю 3 мая 1791, заклікаў шляхту злучыцца для «абароны рэспубліканскіх свабод» і тэр. цэласнасці дзяржавы. У ВКЛ адпаведныя канфедэрацыі ў ваяводствах і паветах ствараліся пры падтрымцы царскіх войск; у іх кіраўніцтва ўваходзілі маршалкі і па 6 канцылярыстаў, з якіх 2 дэлегаваліся ў Генеральную канфедэрацыю ВКЛ (Генеральнасць).



Да арт. **Таргавіцкая канфедэрацыя**. Пячатка Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ.

Апошнімі былі створаны канфедэрацыі Віцебскага ваяв. (акт абвешчаны 16.10.1792 у мяст. Чарэя, маршалак В.Гласко) і Мазырскага пав. (27.10. 1792, маршалак М.К.Аскерка). Удзельнікі канфедэрацый прысягалі змагацца супраць Канстытуцыі 3 мая 1791, прынцыпу спадчыннасці каралеўскага трона, абавязваліся ўмацоўваць панаванне каталіцтва, агульнашляхецкую роўнасць, непадзельнасць дзяржавы і захаванне уніі ВКЛ з Польшчай. Генеральная канфедэрацыя ВКЛ абвешчана ў Вільні 14(25).6.1792 у складзе 12 радцаў (Ю.Касакоўскі, П.Касакоўскі, С.Мануцы, А.Ромер, К.Рамановіч, Г.Швыкоўскі, М.Гедройц, Ю.Нарбут, М.Ю.Данкевіч, І.Штэйн, А.Снарскі, Ф.Контрым); маршалак — А.М.Сапега. Канфедэрацыю падтрымалі каля 40 тыс. шляхціцаў ВКЛ. Паводле ўказа Кацярыны II ад 25.6(6.7).1792 у паветах ствараліся *канфедэрацкія суды*. Генеральнасць 1.6.1792 патрабавала, каб на працягу 2 тыдняў усе грамадзяне прысягнулі на вернасць ёй, 24.7. 1792 забараніла секвестр і экзекуцыю шляхецкіх уладанняў, 7.8.1792 увяла цэнзуру і пашпартную сістэму рэгістрацыі пераходаў, 14.8.1792 пазбавіла пасад і права голасу шляхціцаў, якія запісаліся ў мяшчанства і «падазроныя клубы», 15.9.1792 вызваліла з-пад арышту епіскапа *Віктара* Садкоўскага. 13.8.1792 Генеральная канфедэрацыя ВКЛ пагадзілася злучыцца з Генеральнай каронай канфедэрацыяй пры ўмове захавання ранейшай уніі ВКЛ з Польшчай, самастойнага судаводства і правядзення соймаў у Гародні, для чаго 14.8—22.9.1792 правяла новую прысягу мясц.ураднікаў і войска. Канфедэрацыі Кароны і ВКЛ злучыліся ў Генеральную канфедэрацыю абодвух народаў у Берасці 11.9.1792. 24.9.1792 Генеральнасць пераехала ў Гародню для падрыхтоўкі там вальнага сойма пад наглядам рас. пасла Я.Я.Сіверса. 30.8.1792 яна падпарадкавала сабе збор дзярж. падаткаў, аднак з-за скаргаў на ўціск паборцаў пры збіранні правіянту і фуражу для рас. войск 22.9.1792 перадала збор падаткаў мясц. канфедэрацыям і трымальнікам маёнткаў. Прусія ўвяла войскі на тэр. Рэчы Паспалітай, а Расія абвясціла ноту аб падрыхтоўцы *другога падзелу Рэчы Паспалітай* і не дазволіла шляхце сабрацца ў лют. 1793 на выбарчыя соймікі, Генеральнасць для абароны краіны 11.2.1793 загадала мясц. канфедэрацыям склікаць паспалітае рушэнне і абраць ротмістраў. У сувязі з гэтым 10.3.1793 Сіверс прадаставіў павятовым маршалкам ранг ваявод і 6.5.1793 дазволіў правесці шляхецкія выбары на *Гарадзенскі сойм 1793*. 27.5.1793 зачынены канфедэрацкія суды і адноўлены земскія. Ухваленнем на сойме 2-га падзелу Рэчы Паспалітай і дагавора з Расіяй Т.к. канчаткова скампраметавала сябе і 15.9.1793 распушчана.

*Літ.*: Костомаров Н.И. Последние годы Речи Посполитой. Т.1—2. 3 изд. СПб., 1886; Korwin S. Trzeci maj i Targowica. Kraków, 1890; Smoleński W. Konfederacya Targowicka. Kraków, 1903; Тимощук В.В. Тарговицкая конфедерация // Рус. старина. 1904. № 9—10; 1905 № 1—2; Kicka N. Pamiętniki. Warszawa, 1972; Kocój H. Zaborcy wobec Konstytucji 3 maja. Katowice, 1991; Kądziela Ł. Między zdradą a służbą Rzeczypospolitej. Warszawa, 1993; Анішчанка Я. Просім, пан генэрал // Наша ніва. 1994. № 7; Никитин М.Г. К вопросу о добровольности присоединения белорусской шляхты к Тарговицкой конфедерации // Весн. БДУ. Сер. 3. 1995. № 1; Šmigelskytė-Stukienė R. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės konfederacijos susidarymas ir veikla 1792—1793 metais. Vilnius, 2003.

***Яўген Анішчанка.***

**Тарнагродская канфедэрацыя**, саюз шляхты (у асноўным сярэдняй) Польшчы, накіраваны супраць абсалютысцкіх планаў караля польскага і вялікага князя літоўскага *Аўгуста II* Моцнага (адначасова курфюрст саксонскі). Стварэнню Т.к. папярэднічала ўвядзенне ў 1713 каралём на тэр. Рэчы Паспалітай саксонскіх войск для абароны яе ад турэцкай пагрозы, а фактычна для ўмацавання сваёй улады. У 1714 у Малой Польшчы ўспыхнулі паўстанні шляхты супраць каралеўскага абсалютызму і сялян супраць рабункаў саксонскіх жаўнераў. Паўстанні былі задушаны. 26.11.1715 у Тарнагродзе (Люблінскае ваяв.) праціўнікі караля стварылі Т.к. на чале са Станіславам Ледухоўскім. Шляхта ставіла на мэце вывад саксонскіх войск з Рэчы Паспалітай, дэтранізацыю Аўгуста II і замацаванне шляхецкіх вольнасцей. Саюзнік Аўгуста II у *Паўночнай вайне 1700—21* цар Пётр I, не жадаючы ўзмацнення ўлады караля, падтрымаў Т.к. 23.3.1716 на з'ездзе бел. і літ. шляхты ў Вільні ўтворана *Віленская канфедэрацыя 1716* у ВКЛ, якая падтрымала Т.к. Атрады канфедэратаў змагаліся з каралеўскімі і саксонскімі войскамі на ўсёй тэр. Рэчы Паспалітай. Шляхта масава падтрымала Т.к. Пасля года ваенных дзеянняў Пётр I выступіў пасрэднікам паміж канфедэратамі і каралём. У Рэч Паспалітую былі ўведзены рас. войскі. Пасля доўгіх перагавораў пад націскам дыпламатаў Расіі 3.11.1716 у Варшаве падпісана кампраміснае пагадненне паміж Аўгустам II, Т.к. і Віленскай канфедэрацыяй. 30.1.1717 пагадненне ратыфікавана і 1.2.1717 зацверджана «нямым» соймам. Саксонскія войскі выводзіліся па-за межы Рэчы Паспалітай, улада караля абмяжоўвалася (не мог прымаць важных рашэнняў без згоды Сената і дэпутатаў). Абмяжоўваліся і правы гетманаў, замацоўваўся прынцып *ліберум вета* пры галасаванні ў сойме. Шляхціцам-дысідэнтам (некатолікам) забаранялася займаць дзярж. пасады. Кароннае (польскае) войска скарачалася да 18 тыс. чал., а войска ВКЛ — да 6 тыс., у той час як арміі суседніх Расіі, Аўстрыі і Прусіі налічвалі дзесяткі і сотні тысяч салдат. Узмацніўся паліт. ўплыў Расіі на ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, найперш ВКЛ.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Таропецкая воласць**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у сярэдзіне 14—15 ст. Цэнтр — г. Таропец (цяпер цэнтр Таропецкага р-на Цвярской вобл., Расійская Федэрацыя). Сфарміравалася ўздоўж р. Таропа, па якой праходзіў гандлёвы шлях, што злучаў Зах. Дзвіну і Ловаць. Таропец быў адным з гал. племянных цэнтраў крывічоў, вядомы з

сярэдзіны 11 ст., знаходзіўся ў Смаленскім княстве. З 1167 існавала Таропецкае княства, якое ахплівала Т.в., вярхоўі Волгі з г. Ржэва. З пач. 13 ст. на таропецкія землі пачаўся ціск з боку Літ. дзяржавы. Значныя літ. напады на Таропец і яго наваколле адбыліся ў 1223, 1226, 1234, 1245, 1253. Пасля мангольскага нашэсця таропецкія князі не вядомы, але прадстаўнікі гэтага роду актыўна дзейнічалі ў суседняй Ржэве. Магчыма, туды была перанесена сталіца княства. У 2-й пал. 13 ст. раён Таропца стаў плацдармам ВКЛ для нападаў на наўгародскія і цвярскія землі (1248, 1253, 1258, 1285). Відаць, паводле наўгародска-літ. мірнага дагавору 1262 Таропец быў прызнаны за ВКЛ. Літ. ўлада распаўсюдзілася і на частку Ржэўскай зямлі. Там у 1335 маскоўскім вял. кн. Іванам Калітой былі адваяваны літ. гарадкі Асечан, Расна і інш. Праз пэўны час пасля далучэння да ВКЛ з Т.в. сфарміраваўся павет, звесткі аб якім з'яўляюцца з 15 ст. Пры наяўнасці ўласнага цівуна (вядомы з 1441—42), а потым намесніка, у ваенна-адм. і фінансавых адносінах Таропецкі пав. падпарадкоўваўся Смаленску. Таропецкія баяры і слугі ўваходзілі ў смаленскае апалчэнне, а таропецкая даніна ішла ў смаленскую казну. З канца 15 ст. вядомы таропецкія валасці Казарынская, Дубна, Рожна, Любута, Тура, Бібірава, Таропецкая, Няжэльская, Старцава, Данькава. Валасці Рожна і Бібірава былі ў сумесным кіраванні Таропца і Белай. У канцы 15 ст. адбыўся канфлікт паміж Таропцам і Старцавай вол., якая адстойвала сваю самастойнасць у зборы і выплаце даніны. Граматай вял. кн. Аляксандра ад 20.3.1497 пацверджаны асобны статус Старцавай вол., але пасля прад'яўлення жыхарамі Таропца граматы вял. кн. Казіміра воласць вернута пад юрысдыкцыю Таропца. З канца 15 ст. на Таропецкі пав. пачаўся ціск з маскоўскага боку. На таропецкай мяжы ў Наўгародскай зямлі наўмысна была дадзена вотчына ўцекачу з ВКЛ кн. Фёдару Іванавічу Бельскаму (валасці Вяліла, Марэва і гарадок Дземан), які ў 1488—90 пастаянна непакоіў сваімі нападамі суседнія землі. З боку Ржэўскай зямлі ўселугскі намеснік Васіль Давыдавіч у 1489 адрэзаў ад таропецкай валасці Дубны палову тэрыторыі. Маскоўскі намеснік у Чарнакунстве Андрэй Колычаў у 1491 напаў на Таропецкі пав., забіў таропецкага намесніка, узяў шматлікі палон і далучыў да маскоўскіх уладанняў некаторыя землі. У адказ новы таропецкі намеснік Зенька Еўлашкавіч вясной 1492 разрабаваў двор Колычава і землі Чарнакунства. У ходзе *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* пскоўска-наўгародскія войскі 9.8.1500 ўзялі Таропец і пры гэтым захапілі ў палон яго намесніка. Дагаворам 1503 Таропец і 13 яго валасцей былі зацверджаны за Масквой. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08* таропецкія жыхары ў 1508 сталі прысягаць вял. князю літоўскаму Жыгімонту, але паход ваяводы Д.В.*Шчэні* вярнуў горад пад маскоўскую ўладу. Зімой 1515 Таропец спалены жаўнерамі Януша Свірчэўскага. У далейшым Таропецкі пав. стаў краем памешчыцкага землеўладання.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892; Побойнин И. Торопецкая старина: Исторические очерки города Торопца с древнейших времен до конца XVII в. // Чтения в Обществе истории и древностей российских. М., 1897. Кн. 1; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998; Кузьмин А.В. Торопецкая знать в XIII в.: Из истории Смоленской земли // Russia mediaevalis. München, 2000. Т. 10, 1.

***Віктар Цемушаў.***

**Тарту** (Tartu), горад у Эстонскай Рэспубліцы, гл. *Дорпат.*

**Тарунскі мір 1411**, мірны дагавор паміж Нямецкім ордэнам, з аднаго боку, і Польскім каралеўствам і ВКЛ, з другога, падпісаны 1 лют. ў Торуні. Завяршыў *Вялікую вайну 1409—11*, адлюстраваў новую расстаноўку сіл у Цэнтр.-Усх. Еўропе. Пасля *Грунвальдскай бітвы 1410* Нямецкі ордэн страціў дамінаванне ў Балтыйскім рэгіёне, аднак рыхтаваўся да рэваншу. Кароль польскі Ягайла і вял. князь літоўскі Вітаўт перад пагрозай вайны на 2 франты (з ордэнам і яго саюзнікам германскім імператарам Сігізмундам Люксембургскім) пагадзіліся на часовае прымірэнне з ордэнскай дзяржавай. У дагаворы ён адмовіўся ад Жамойці і яцвяжскіх зямель на карысць ВКЛ (праўда, толькі на перыяд жыцця Ягайлы і Вітаўта), а Польскаму каралеўству вярнуў Добжынскую зямлю і абавязаўся выплаціць 100 тыс. коп чэшскіх грошаў. Гданьскае Памор'е і Хелмская зямля заставаліся ў межах ордэнскай дзяржаўнасці. Палавінчаты характар Т.м. абумовіў далейшае нарастанне напружанасці паміж яго ўдзельнікамі і іх падрыхтоўку да новай вайны.

*Літ.*: Neitmann K. Die Staatsvertrage des Deutschen Ordens in Preussen, 1230—1449. Köln; Wien, 1986; Biskup M., Labuda G. Dzieje Zakonu Krzyżackiego w Prusach. Gdańsk, 1986.

***Генадзь Сагановіч.***

**Тарунскі мір 1466**, мірны дагавор паміж Нямецкім ордэнам і Польшчай, падпісаны 19 кастр. ў г. Торунь. Завяршыў Трынаццацігадовую вайну 1454—66, у якой ордэн пацярпеў паражэнне. Т.м. сцвярджаў ідэю прыналежнасці



Акт **Тарунскага міру 1411**.



Акт **Тарунскага міру 1466**.

Польскаму каралеўству ўсёй Прусіі і замацаваў непасрэдна пераход да Польскай дзяржавы зах. часткі Прусіі — Гданьскага Памор'я, Хелмскай зямлі, зямель па Віслe з Мальбаркам і Эльблангам,Варміі. Усх. частка Прусіі заставалася ва ўладанні ордэнскай дзяржавы, якая станавілася васалам польскага караля. Кожны новаабраны вял. магістр ордэна мусіў прысягаць на вернасць каралю і абяцаць захоўваць пастановы Т.м., адначасова ён уваходзіў у склад польскага сената. Самастойнасць знешняй палітыкі ордэнскай дзяржавы абмяжоўвалася, ёй забаранялася шукаць знешняй дапамогі для вызвалення ад гэтай прысягі. Т.м. абвясціў амністыю падданым абодвух бакоў і забеспячэнне свабоды гандлёвых кантактаў паміж 2 часткамі Прусіі.

*Літ.*: Vetulani A. Lenno pruskie od traktatu krakowskiego do śmierci Albrechta, 1525—1568. Kraków, 1930; Wiese E. Die staatsechtlichen Grundlagen des Zweiten Thomen Friedens und die Gränzen seiner Rechtssmassigkeit // Zeitschrieft für Ostforschung. 1954. № 3.

***Генадзь Сагановіч.***

**Тарускае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе, адно з *Вярхоўскіх княстваў*. Цэнтр — г. Таруса. Вылучылася са складу Чарнігаўскага княства ў 1246 пасля забойства ў Ардзе кн. Міхаіла Усеваладавіча, які завяшчаў Тарусу малодшаму сыну Юрыю. Княства займала тэрыторыю па абодвух баках р. Ака, на ПнУ ад *Навасільскага княства*. Пасля смерці кн. Юрыя Міхайлавіча ў канцы 13—пач. 14 ст. распалася на 5 удзелаў: Тарускі, Абаленскі, Валконскі, Канінскі і Мышацкі (Мышагскі). Таруса была падзелена на дольніцы, што пэўным чынам аб'ядноўвала род тарускіх князёў. У сярэдзіне 14 ст. тарускія князі трапілі ў залежнасць ад Масквы. Князі Сямён Канстанцінавіч Абаленскі і яго брат Іван Тарускі знаходзіліся на маскоўскай службе і актыўна ўдзельнічалі ў паліт. мерапрыемствах, якія былі ініцыіраваны Масквой (з'езд князёў у Пераяслаўе ў 1374, паход на Цвер у 1375, Кулікоўская бітва 1380). Тэндэнцыяй, якая была характэрна для тарускіх князёў, стаў паступовы распродаж імі сваіх уладанняў. Каля 1345 тарускія князі «адступілі» смаленскаму кн. Фёдару Святаславічу землі на У княства. У іх жа мітрапаліт Пётр набыў г. Алексін на р. Ака (паміж 1308—26). Да пач. 15 ст. маскоўскі баярын Аляксандр Перасвет завалодаў значнай часткай тарускіх уладанняў уздоўж левага берага Акі, на 3 ад Алексіна («Перасветава купля»). Нарэшце, у 1393 маскоўскі вял. кн. Васіль I купіў у Ардзе ў Тахтамыша ярлык на Тарусу, што давала яму вярхоўную ўладу над тарускімі князямі, якія, аднак, працягвалі валодаць сваімі землямі. Каля 1401—02 кн. Дзмітрый Сямёнавіч Тарускі заключыў дагавор з Васілём I. Менавіта тады старэйшыя прадстаўнікі роду тарускіх князёў Андрэй Шуціха і Дзмітрый Усеваладавічы ад'ехалі да вял. князя літоўскага Вітаўта, ад якога атрымалі шэраг уладанняў са складу ліквідаванага Карачаўскага княства, а таксама Казельскага і Бялёўскага княстваў. Па цэнтры гэтых уладанняў — Мезецку — адна з галін тарускіх князёў стала называцца *Мезецкімі*. Адарваны ад Тарусы, як асобная адзінка працягваў самастойна існаваць Валконскі удзел Т.к. У сярэдзіне 15 ст. валконскія князі, каб захаваць незалежнасць, прынялі бок вял. князя літоўскага і, такім чынам, страцілі правы на дольніцы ў Тарусе і само Т.к. У канцы 15—пач. 16 ст. князі Валконскія перайшлі на бок Масквы і з'явіліся на службе ва ўдзельных князёў Старыцкіх. Уладанні Валконскіх апынуліся ў складзе Старыцкага ўдзела і трансфарміраваліся ў простую вотчыну служылых князёў. Таруса пераўтварылася з цэнтра княства ў вотчыну служылых маскоўскіх князёў яшчэ ў 1-й пал. 15 ст. У 2-й пал. 15 ст. тарускія князі больш не ўпамінаюцца, а князі Абаленскія сталі маскоўскімі баярамі.

*Літ.*: Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы // Новая локальная история. Ставрополь, 2004. Вып. 2.

***Віктар Цемушаў.***

**тастамент** (ад лац. testamentum завяшчанне), у ВКЛ прававы акт ці распараджэнне, складзенае ў вызначанай форме пра асабістую маёмасць на выпадак смерці. Паводле Статута ВКЛ 1588, жыхары ВКЛ мелі права скласці пры жыцці Т. на рухомую і набытую нерухомую маёмасць (аб'ектам Т. не маглі быць *вотчыны* і *мацярызны*), выключэнне складалі непаўналетнія, дарослыя сыны, не аддзеленыя ад сям'і і гаспадаркі бацькоў, *паланенікі*, дворная *чэлядзь*, *вываланцы*, асобы, пазбаўленыя гонару, і некаторыя інш. Асоба, якая жадала скласці Т., павінна бы-



ла знаходзіцца «при доброй памети и здоровый на розуме» і сваю волю выказаць у прысутнасці земскага ці гродскага ўрада адпаведнага павета. Т. складаўся ў пісьмовай форме, замацоўваўся подпісамі і пячаткамі прысутных. Пасля смерці завяшчальніка Т. павінен быў неадкладна заносіцца ў адпаведныя кнігі земскага ці гродскага суда. Калі завяшчальнік быў на вайне, у дарозе або за мяжой, ён мог зрабіць завяшчанне ў прысутнасці 2 шляхціцаў. Такі Т. неабходна было неадкладна абвясціць вял. князю, суду, гетману ці харужаму і пацвердзіць прысягай сведкаў. Сведкамі пры складанні Т. не маглі быць асобы, якія самі не маглі рабіць завяшчання, выканаўцы Т. і апекуны, нявесты, асобы, на карысць якіх складаўся Т. Бацькі мелі права пазбавіць спадчыны ў Т. сваіх дзяцей, калі яны пакрыўдзілі сваіх бацькоў, самавольна захапілі іх маёмасць, не аказвалі ім дапамогі ў старасці, не выкупілі бацькоў з варожага палону і ў інш. выпадках. Нельга было складаць Т. на карысць паланенікаў і чэлядзі нявольнай, калі завяшчальнік пры жыцці не зрабіў іх вольнымі людзьмі. Слугі путныя і мяшчане маглі складаць Т., завяшчаць $^1/_3$ частку сваёй маёмасці пры ўмове, што $^2/_3$ заставалася дзецям, а пры адсутнасці дзяцей — гаспадару, на зямлі якога жыў завяшчальнік. Набытая нерухомая маёмасць магла быць без абмежавання завешчана царкве. У гэтым выпадку да царквы пераходзілі вызначаныя абавязкі і павіннасці завяшчальніка па нясенні ваеннай службы.

*Публ.*: Borkowska M. Dekret w niebieskim ferowany parlamencie: Wybór testamentów z XVII—XVIII wieku. Kraków, 1984; Aleksandrowicz-Szmulikowska M. Radziwiłłówny w świetle swoich testamentów: Przyczynek do badań mentalności magnackiej XVI—XVII wieku. Warszawa, 1995.

***Генадзь Маслыка.***

**Татарайціс** (Totorajtis) Ёнас (24.12.1872, в. Блювішкяй Шакяйскага р-на, Літва—21.6.1941), літоўскі гісторык. Д-р філасофіі (1904). Скончыў Сейнскую духоўную семінарыю (1895), Фрыбурскі ун-т (1904). З 1921 выкладаў у Марыямпольскай марыянскай гімназіі (з 1937 дырэктар). Адначасова ў 1923—37 выкладаў у Каўнаскім ун-це. Святар, у 1930—33 узначальваў Літ. правінцыю марыянскага ордэна. Аўтар кніг «Літва пры каралю Міндоўгу да 1263 г.» («Die Litauen unter dem König Mindowe bis zum Jahre 1263», Фрыбур, 1905), «Гісторыя занавікоў» («Zanavykų istorija», Марыямполе, 1929), «Кароль Літвы Міндоўг» («Mindaugas Lietuvos karalius», Марыямполе, 1932), «Гісторыя Судавы-Сувалкаўшчыны» («Sūduvos Suvalkijos istorija», ч. 1, Каўнас, 1938; 2 выд. 2004), падручнікаў па гісторыі.

*Тв.*: Пол. пер. — Zakon Marianów od kasaty do odnowienia. Warszawa, 2002.

**татарскія напады**, набегі татар *Крымскага ханства* на землі ВКЛ у канцы 15—1-й палове 16 ст. Адным з важнейшых шляхоў узбагачэння феадалаў Крымскага ханства былі грабежніцкія паходы на землі суседніх дзяржаў (ВКЛ, Рус. дзяржавы, Польскага каралеўства і інш.). З прычыны дрэннай арганізацыі абароны паўд. ускраін ВКЛ шматтысячныя орды татарскай конніцы ўрываліся на яго тэрыторыю і праз Украіну дасягалі Беларусі. Татары спусташалі і палілі вёскі і гарады, забівалі мірных жыхароў, рабавалі іх маёмасць, выводзілі на продаж у рабства палонных. У 1497 крымскія татары спустошылі Мазыршчыну, але былі разбіты. У 1500 яны спалілі Берасце і Камянец, у 1501 уварваліся на Палессе, у 1502 спустошылі Тураўшчыну і суседнія мясцовасці за р. Прыпяць, у жн. 1503 — наваколлі Капыля, Клецка, Нясвіжа і Слуцка. Увосень 1503 3-тысячны атрад татар дайшоў да Навагародка, але на зваротным шляху разгромлены каля Давыд-Гарадка. У 1505 5-тысячны атрад татар пераправіўся цераз Дняпро каля Лоевай Гары (Лоева) і рушыў да Менска (часткова спалены), Слуцка і Навагародка; асобныя іх загоны даходзілі да Вільні, Віцебска, Друцка, Лагойска і Полацка. Значная частка Беларусі была спустошана. Татары вывелі каля 100 тыс. палонных. Пасля нашэсця татар у Менску і многіх інш. гарадах Беларусі ўспыхнула эпідэмія. Вясной 1506 на Беларусь уварвалася 20-тысячная татарская арда і спынілася каля Клецка. Адсюль іх загоны рабавалі і палілі вёскі ў наваколлях Ашмян, Ваўкавыска, Гародні, Крэва, Ліды, Менска, Навагародка і Слуцка. Для адпору татарам 10-тысячнае войска ВКЛ сабралася ў Лідзе. На чале з князем М.Л.Глінскім 6 жн. яно разграміла татар у *Клецкай бітве 1506*. У 1508 татары двойчы ўрываліся на Беларусь, адзін раз былі разбіты каля Слуцка. У 1510 15-тысячная арда ўварвалася ў ВКЛ, і, не сустрэўшы моцнага адпору, дайшла да Вільні. У 1512 татары разбіты ў *Вішнявецкай бітве 1512*. У 1521 5 тыс. татар дайшлі да Слуцка і Пінска, спалілі Мазыр і Тураў. У канцы 1526 20-тысячная татарская арда зноў спустошыла наваколлі Турава, Пінска і Слуцка, але пад Луцкам была разгромлена войскамі ВКЛ на чале з гетманам К.І.Астрожскім, з татарскай няволі было вызвалена каля 40 тыс. палонных (гл. *Бітва на Альшаніцы 1527*). У 1530 набег татар на Беларусь быў адбіты. У наступныя гады ў сувязі са значнымі пераменамі знешнепаліт. курсу Крымскага ханства татары нападалі на ВКЛ рэдка і не дасягалі тэр. Беларусі. З 1474 па 1569 адбыліся 75 нападаў крымскіх татар на ВКЛ, у т.л. 12 — на Беларусь. Поруч са спусташальнымі набегамі татар дадатковым цяжарам на сялян клаліся і разнастайныя павіннасці, якія вынікалі з мер урада ВКЛ па арганізацыі абароны і прадухіленні пагрозы набегаў. Амаль штогод з сялян збіралі *ардыншчыну* для выплаты крымскаму хану даніны («упамінкаў», напр., у 1513 мір з татарскім ханам Менглі-Гірэем быў дасягнуты за кошт выплаты яму 15 тыс. залатых). Сяляне з гаспадарскіх (вялікакняжацкіх) падняпроўскіх валасцей павінны былі рамантаваць і будаваць абарончыя збудаванні ў цэнтрах сваіх валасцей, а таксама на паўд. ускраіне ВКЛ. Яны пастаянна неслі дазорную службу на магчымых напрамках нападаў татар. Татарскія напады былі адным з асн. фактараў, што тармазілі працэс сац.-эканам. развіцця Беларусі, асабліва яе паўд.-ўсх. часткі, у канцы 15—1-й трэці 16 ст.

*Кр.*: Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmodzka i wszystkiej Rusi . T . 1. Warszawa, 1846; Stosunki Polski z Tatarszczyzną od połowy XV w. T . 1. Stosunki z Mendli-Girejem chanem Tatarów perekopskich (1469—1515). Kraków; Warszawa, 1881; Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975.

*Літ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Ochmański J. Organizacja obrony w Wielkim Księstwie Litewskim przed

napadami Tatarów krymskich w XV—XVI wieku // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1960. T. 5; Грековъ И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963; Кананові ч В.І. Крымскія напады на Беларусь // Гіст.-археал. зборнік. Мн., 1993. Ч. 1.

*Міхаіл Спірыдонаў.*

**татаршчына**, дзяржаўны пачатак у ВКЛ у 13—16 ст. У сярэдзіне 13—сярэдзіне 14 ст. выплачвалася як даніна Залатой Ардзе. Збіралася на тэр. Смаленскай, Кіеўскай зямель, Валыні, Падолля і інш. З уключэннем гэтых тэрыторый у склад ВКЛ паступова пачала збірацца ў дзярж. і мясц. княжацкі скарб. У актах вядома ў Давыд-Гарадоцкім княстве ў канцы 15—пач. 16 ст.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1, С. 698—704.

**татары** (саманазва т а т а р), народнасць, этнічная група ў ВКЛ. Першыя звесткі пра знаходжанне Т. на тэр. Беларусі адносяцца да пач. 14 ст. Вял. князі ВКЛ Гедзімін, Кейстут, Альгерд запрашалі Т. з *Залатой Арды* на службу і выкарыстоўвалі ў барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. У ВКЛ таксама траплялі Т.-палонныя, знаходзілі прытулак збеглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі трон. У 1319 Т. ўдзельнічалі ў бітве супраць крыжакоў у складзе войск ВКЛ, у 1350 і 1352 — у польска-венгерска-літ. канфлікце, пэўная частка Т. засталася ў 1340—50-я г. пасля набегаў хана Джанібека. Пасля *Кулікоўскай бітвы 1380* у ВКЛ эмігрыравала група мурзаў (гл. ў арт. *Мірза*) на чале з Мансур-Кіятам Мамаевічам, які лічыцца пачынальнікам роду *Глінскіх*. Асаблівую апеку Т. аказваў Вітаўт, які разлічваў на іх як на ўмелых коннікаў і сяліў пераважна на зах. межах дзяржавы і ў наваколлі буйных замкаў. У 1395 ён прыняў разбітага Цімурам хана Залатой Арды *Тахтамыша* (пасяліўся ў г. Ліда). Шмат Т. пераселена ў ВКЛ у выніку сумеснага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў (1397; гэта дата традыцыйна лічыцца пачаткам пасялення Т. на Беларусі) і Крым (1398). Яны былі размешчаны каля Вільні, у Лідскім, Ашмянскім, Навагародскім, Берасцейскім пав., у правах прыраўнаваны да мясц. насельніцтва. Пасля паражэння войска ВКЛ у *бітве на Ворскле 1399* Тахтамыш уцёк у Сібір (там забіты ў 1406). У 1409 сын Тахтамыша Джэлал-ад-Дзін прыбыў у ВКЛ і прыняў удзел у *Грунвальдскай бітве 1410*. У 1410—20-х г. міграцыйны паток Т. у ВКЛ узмацніўся. Бургундскі рыцар Ж. дэ *Ланаа* ў 1413—14 пісаў пра Т., якія жылі ў г. Трокі і навакольных вёсках і размаўлялі на сваёй мове; крымскі хан у 1420-я г. ў лісце да Вітаўта прасіў не прымаць перасяленцаў з яго дзяржавы. Палітыку Вітаўта ў адносінах да Залатой Арды, з мэтай набываць саюзнікаў і для ўмацавання межаў ВКЛ, працягвалі яго пераемнікі. У 15 ст. паміж ВКЛ і татарскімі ханствамі практычна не было войнаў. Хваля перасяленцаў-Т. ішла ў ВКЛ пераважна з Крымскага ханства. Але ў апошняй чвэрці 15 ст. сітуацыя змянілася. Пасля смерці крымскага хана Хаджы-Гірэя (з дынастыі Гірэяў, паводле польскіх крыніц нарадзіўся ў ВКЛ у г. Трокі) уладу спрабаваў узяць яго сын Нур-Даўлет, але быў адхілены сваім братам Менглі-Гірэем і разам з другім братам Айдарам вымушаны быў шукаць паратунку ў ВКЛ. Менглі-Гірэй, які змагаўся з саюзнікам Літвы ханам Залатой Арды Ахметам, адмовіўся ад арыентацыі на ВКЛ і заключыў саюз з Масквой. У 1-й трэці 16 ст. адбыўся шэраг *татарскіх нападаў* на ВКЛ. Пасля гэтага шмат Т.-палонных паселена на Беларусі. Важнай крыніцай па гісторыі Т. у ВКЛ і Польшчы з'яўляецца праца невядомага аўтара-Т. з ВКЛ «Рысале-і-Татары-Лех» («Трактат аб татарах Польшчы»), напісаная ў 1558 на цюркскай мове ў Стамбуле для зяця султана, візіра Рустэма-пашы. Т. пасяляліся на Беларусі згуртаванымі родаплемяннымі групамі (улусамі), што ўплывала на іх ваенна-адм. лад. Усе ваеннаслужачыя Т. падзяляліся на харуствы (тыя ж племянныя улусы), а ў ваенных адносінах — на сцягі (атрады). Часта харуствы і сцягі супадалі. Т. асядалі на Беларусі неадначасова, таму іх улусы не займалі які-небудзь пэўны павет. У люстрацыі Т. ВКЛ 1631 згадваецца 6 «фамілій» (харустваў, родаплемянных груп), з якіх У л а н с к а я (*Уланы*, Агланы) — нашчадкі малодшых ліній залатаардынскіх ханаў — налічвала 179 дымоў. 5 іншых склаліся на аснове плямён, што ўваходзілі ў Залатую Арду і прынялі ўдзел у этнагенезе шэрагу цюркскіх народаў Паўн. Прычарнамор'я і Сярэдняй Азіі (падаюцца ў парадку пасялення ў ВКЛ). У й ш у н с к а е харуства складалася з цюркскага племя уйшун (уйсын, усун, юшын), 244 дымы ў Троцкім, Віленскім, Лідскім пав. Н а й м а н с к а е харуства адпавядала цюркскаму племю найманаў, 126 дымоў у Ашмянскім і Віленскім ваяв. Д ж а л а і р с к а е харуства прадстаўляла нашчадкаў мангольскага племя джалаір, у склад якога ўвайшлі цюркскія плямёны, і прынялі ў 13 ст. гэту назву; 74 дымы ў Віленскім, Навагародскім і Ашмянскім пав. К у н г р а ц к а е харуства адпавядала племю канграт (гл. ў арт. *Канграты*), 71 дом у Троцкім, Віленскім, Ашмянскім і Менскім пав. Племя б а р ы н, старэйшыя роды якога былі аднымі з вышэйшых у Крыме, мела 82 дымы ў Навагародскім і Мсціслаўскім пав. Падзел на улусы існаваў да канца 17 ст. Паводле сац.-эканам. становішча татарскае насельніцтва на землях ВКЛ у 16—17 ст. можна ўмоўна падзяліць на 3 катэгоры. Найб. прывілеяваная група — прамыя нашчадкі ардынскіх ханаў (толькі 2 роды — *Астрынскія* і *Пунскія*) і мурзаў, якія атрымалі тытулы князёў: Асансуковічы, Барынскія, Кадышэвічы, *Карыцкія*, *Крычынскія*, *Лоўчыцкія*, Смольскія, Талькоўскія, Юшынскія і інш. Яны валодалі вял. вотчынамі з сялянамі, за што павінны былі несці ваенную службу. Да 2-й належалі нашчадкі простых воінаў. Яны атрымалі невял. надзелы зямлі і апрача ваеннай службы выконвалі павіннасці на карысць вял. князя (транспартную, кур'ерскую, каравульную і інш.), у 1561 і 1568 атрымалі прывілеі на шляхетцва ад вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста (зацверджаны ў 1576, 1608 і 1634). Да 3-й адносіліся гарадскія («простыя») Т. — самая бедная група Т. Паходзілі яны з перасяленцаў, якія на гіст. радзіме былі не феадаламі, а вольнымі або залежнымі, «ясачнымі людзьмі». У гарадах і мястэчках ім адводзілася зямля пад сядзібы і агароды. Яны неслі павіннасці, як і мяшчане, плацілі пагалоўны падатак. Асн. іх заняткамі былі рамізніцтва, гарбарства, агародніцтва, жывёлагадоўля. Нягледзячы на пэўныя льготы і рэліг. верацярпімасць (свабодна дазвалялася вызнаваць іслам і будаваць *мячэці*), Т. ў ВКЛ не мелі права ўдзельнічаць у выбарах у сойм і мясц. соймі-



кі, займаць вышэйшыя дзярж. пасады. Аднак шэраг Т. вызначыліся на дыпламатычнай службе, былі «пісарамі татарскімі» — перакладчыкамі з татарскай і турэцкай моў у адносінах з Крымам і Турцыяй. Найб. вядомы з іх кн. Абрагім Тымірчыч у пач. 16 ст. — «пісар татарскі» канцылярыі ВКЛ пры вял. князях Аляксандру і Жыгімонце І. У канцы 14—16 ст. Т. ВКЛ склаліся ў самастойную этнаграфічную супольнасць — літоўскія Т., якіх разам з кароннымі Т. (жылі на Падляшшы) называлі польска-літоўскімі Т., з 1920-х г. — таксама беларуска-літоўскімі, беларускімі Т., у канцы 20 ст., — заходнімі Т. Перасяленцаў з татарскіх ханстваў адзначалася ўсё менш, іх апошнія хвалі склалі Т. — уцекачы з Паволжа ў 2-й пал. 16 ст. пасля заваявання Рас. дзяржавай Казанскага і Астраханскага ханстваў і мігранты з Крыма ў 17—пач. 18 ст. (толькі на Украіну). З-за згасання кантактаў з гіст. радзімай і шматлікіх шлюбаў з хрысціянкамі (дазвол Жыгімонта II; быў неабходны, бо для Т.-палонных і ўцекачоў не хапала нявест-татарак, гэта паўплывала на звычай бел.-літ. Т. мець толькі адну жонку) у 16—пач. 17 ст. Т. ВКЛ паступова страцілі родную мову (кыпчакская група цюркскіх моў) і сталі карыстацца беларускай (пазней таксама польскай, а з 19 ст. і рускай). Т. ВКЛ захавалі этнічную самасвядомасць, але падвергліся значнаму бел. культурнаму ўплыву. На бел. і польскай мовах *арабскім пісьмом* была створана багатая л-ра бел.-літ. Т. — *кітабы*, *тэджвіды*, *тэфсіры*, *хамаілы*.

Вусна-паэтычная спадчына бел. Т. вельмі блізкая да фальклору беларусаў, а такія жанры, як прыказкі, прымаўкі, песні, прыпеўкі і загадкі, амаль нічым не адрозніваюцца ад беларускіх. Больш арыгінальныя і пазбаўленыя моўнага ўплыву бел. фальклору паданні, легенды і вусныя апавяданні Т. Яскрава адбіўся бел. ўплыў і на сямейнай абраднасці Т., звязанай з рэліг. рытуаламі і з афармленнем такіх важных у асабістым жыцці чалавека падзей, як азан (нарачэнне імя), вяселле, хаўтуры і інш. Са свайго боку Т. таксама паўплывалі на культуру беларусаў. Яны ўвялі ў бел. мову шмат слоў-цюркізмаў (па падліках Я.Якубоўскага да 500). Т. пакінулі след і ў тапаніміцы мясцовасцей, дзе яны здаўна жывуць; ад татарскіх слоў і ўласных імён паходзяць назвы паселішчаў Беларусі: Апчак, Арда, Агдамер, Койданава, Мамаі, Татарка, Татаршчызна, Якшыцы і інш. Т. занеслі на Беларусь высокую культуру агародніцтва і насенняводства кветак, паўплывалі на адзенне некат. рэгіёнаў Беларусі (напр., Палесся) і інш.

У канцы 16—17 ст. становішча Т. у Рэчы Паспалітай пагоршылася. Статут ВКЛ 1588 не дазваляў Т.-феадалам мець прыгонных сялян-хрысціян. У пач. 17 ст. ў час контррэфармацыі Т. трапілі пад уціск каталіцкай царквы. Віленскі біскуп Б.Война (1600—15) перашкаджаў будаваць мячэці, у 1609, 1611, 1613 па ініцыятыве каталіцкай шляхты сойм забараніў Т. служыць ротмістрамі, паручнікамі, харужымі (фактычна гэтыя забароны абыходзіліся), у 1616 выдадзены антытатарскі твор «Альфуркан татарскі...» М.Чыжэўскага (у 1630 у адказ выйшла «Апалогія татар» Азулевіча), у 1616 сойм забараніў Т. набываць шляхецкія ўладанні, трымаць чэлядзь, пад пагрозай смерці браць шлюб з хрысціянкамі, татаркі часта абвінавачваліся ў вядзьмарстве. На пагаршэнне становішча паўплывалі драбленне і продаж сваіх маёнткаў Т. феадаламі, якое пачалося з 1569 з атрыманнем права свабоднага карыстання зямлёй. У выніку шмат Т. выехала ў Крым і Турцыю (пераважна тыя, хто пасяліўся параўнальна нядаўна, у асноўным з Украіны). Многія перайшлі ў каталіцтва і паступова асіміляваліся. Аднак у сярэдзіне 17 ст. колькасць татарскіх харугваў у літ. і асабліва ў каронным войску зноў павялічылася ў сувязі з барацьбой супраць паўстанцкай арміі Б.Хмяльніцкага. У 1662 і 1669 каралеўскімі прывілеямі для Т. аднаўлялася права набываць на любых умовах маёнткі, прывілеем 1667 дазвалялася адбудоўваць мячэці. Але за час войнаў 2-й пал. 17 ст. становішча служылых Т. пагоршылася, яны гадамі не атрымлівалі грошы, і пад уздзеяннем агітацыі праціўніка ў час вайны з Турцыяй 1672—76 у 1672 узнялі бунт на чале з ротмістрам А.Крычынскім і перайшлі на бок туркаў (гл. *Ліпкі*). Пазней значная частка ліпкаў вярнулася па амністыі ў Рэч Паспалітую і пасялілася ў раёнах Беластока і Берасця. У 18 ст. ўрад Рэчы Паспалітай імкнуўся мацней інтэграваць Т. у дзяржаве і грамадстве. Законы 1768 і 1775 зацвярджалі за Т., якія вярнуліся, падараваныя землі, права рамантаваць старыя і будаваць новыя мячэці. Сойм 1786 дазволіў фарміраваць Т. палкі пярэдняй варты, а Чатырохгадовы сойм 1788—92 прыняў рашэнне пра сфарміраванне 2 татарскіх палкоў. Бел.-літ. Т. прынялі ўдзел у паўстанні 1794.

*Літ.*: Кричинский Л.К. Библиографические материалы по истории татар Польши, Литвы, Белоруссии и Украины. Пг., 1917; Александрович Дж. Литовские татары // Изв. о-ва обследования и изучения Азербайджана. 1926. № 2; Гембіцкі Я. Да пытання аб сацыяльна-эканамічным стане беларускіх татар у сярэднявеччы // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мн., 1929. Кн. 8. Пр. класа гісторыі, т. 3; Kryczyński S. Tatarzy litewscy: Próba monografii historyczno-etnograficznej // Rocznik Tatarski. Warszawa, 1938. T. 3; Дубинский А.И. Заметки о языке литовских татар // Вопр. языкознания. 1972. № 1; Грыцкевіч А.П. З гісторыі паселішчаў татар у Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 6; Borawski P., Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986; Borawski P., Dubiński A. Tatarzy polscy: Dzieje, obrzędy, legendy, tradycje. Warszawa, 1986; Tyszkiewicz J. Tatatzy na Litwie i w Polsce. Warszawa, 1989; Думін С.У., Канапацкі І.Б. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Криницкий Ю.М. Белорусские татары // Идель. 1993. № 2; Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. 2 изд. Мн., 1993; Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы: Матэрыялы I міжнар. навук.-практ. канф. Ч. 1—3. Мн., 1994—95; Гришин Я. Польско-литовские татары: Наследники Золотой Орды. Казань, 1995; Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы, Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі: Матэрыялы II міжнар. навук.-практ. канф. Чн. 1—2. Мн., 1996; Bohdanowicz L., Chazbyewicz S., Tyszkiewicz J. Tatarzy muzułmanie w Polsce. Gdańsk, 1997; Александровіч А. Татары на Беларусі // Маладосць. 1998. № 4; Навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам С.Х.Александровіча... (1921—1986), снежань 1996. Мн., 1998; Вывучэнне і захаванне культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі: Матэрыялы III міжнар. навук.-практ. канф. Мн., 1999; Іслам у Рэспубліцы Беларусь: Мінуўшчына і сучаснасць: Матэрыялы IV міжнар. навук.-практ. канф. Мн., 1999; Фаизов Ф. О татарских родах Речи Посполитой // Идель. 1999. № 3; 2000. № 4; Dumin S. Herbarz rodzin tatarskich Wielkiego

Księstwa Litewskiego. Gdańsk, 1999; Іслам і глабальныя праблемы цывілізацыі: Матэрыялы V міжнар. навук.-практ. канф. Ч. 1—2. Мн., 2000; Іслам і ума (абшчына) татар-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы на рубяжы тысячагоддзяў: Матэрыялы VI міжнар. навук.-практ. канф. Мн., 2000; Канапацкі І.Б. Смолік А.І. Гісторыя і культура беларускіх татар. Мн., 2000.

*Ібрагім Канапацкі.*

**Таўтавічус** (Tautavičius) Адольфас (н. 9.9.1925, в. Курэняй Цяльшайскага р-на, Літва), літоўскі археолаг, гісторык. Д-р габілітаваны (1997). Скончыў Вільнюскі ун-т (1950). З 1946 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы (у 1962—87 заг. аддзела археалогіі), адначасова ў 1951—60 выкладаў у Вільнюскім ун-це. З 1988 заг. аддзела археалогіі Даследчыцкага цэнтра «Замкі Літвы». Даследуе культуру насельніцтва Літвы жалезнага веку і сярэдніх вякоў, гісторыю Вільнюса, праблемы нумізматыкі Літвы. Праводзіць археалагічныя раскопкі Ніжняга замка у Вільнюсе, замкаў у Тракаі, Клайпедзе, Велюоне, грунтавых і курганных могільнікаў. Аўтар кніг: «Кафля Вільнюскага замка (XVI—XVII стст.)» [«Vilniaus pilies kokliai (XVI—XVII a.)», Вільнюс, 1969], «Археалагічны атлас Літоўскай ССР. Т. 3. Курганы і грунтавыя могільнікі I—XIII ст.» [«Lietuvos TSR archeologijos atlasas. T. 3. I—XIII a. Pilkapynai ir senkapiai», Вільнюс, 1977; сааўтар т. 2 (1975) і 4 (1978)], «Сярэдні жалезны век Літвы (V—IX ст.)» («Vidurinis geleóies amóius Lietuvoje (V—IX a.)», Вільнюс, 1997). Адзін з аўтараў кніг: «Нарыс археалогіі Літвы» («Lietuvos archeologijos bruoóai», Вільнюс, 1961), «Гісторыя горада Вільнюса» («Vilniaus miesto istorija», т. 1, Вільнюс, 1968), «Замкі Літвы» («Lietuvos pilys», Вільнюс, 1971), «Гісторыя Літоўскай ССР» («История Литовской ССР», Вільнюс, 1978), «Гісторыя Літоўскай ССР» («Lietuvos TSR istorija», т. 1, Вільнюс, 1985), «Этнагенез літоўцаў» («Lietuvių etnogenezė», Вільнюс, 1987), «Палац Вільнюскага Ніжняга замка» («Vilniaus óemutinės pilies rūmai», т. 1—5, Вільнюс, 1989—2003), Складальнік «Бібліяграфіі археалогіі Літвы, 1782—1998» («Lietuvos archeologijos bibliografija, 1782—1998», Вільнюс, 2000).

*Літ.*: Iš baltų kultūros istorijos: Skiriama Adolfo Tautavičiaus 75-mečiui. Vilnius, 2000.

**Таўцівіл** (?—1264), літоўскі князь. Пляменнік *Міндоўга*, верагодна, сын яго старэйшага брата Даўспрунка (упамінаецца ў 1219). Каля 1249 Міндоўг накіраваў Т. і яго брата Эдзівіла ў паход на Смаленскае княства, а сам захапіў іх вотчыны і арганізаваў няўдалую спробу іх забойства. Т. уцёк у Галіцка-Валынскае княства, а потым у Рыгу, дзе прыняў хрышчэнне ў каталіцтва. Паліт. праціўнікі Міндоўга — галіцка-валынскі кн. *Даніла Раманавіч*, Лівонскі ордэн, рыжскі арцыбіскуп і князь Жамойці Выкінт (дзядзька Т. па маці) — падтрымалі Т. як прэтэндэнта на пасад вял. князя літоўскага і аказалі яму ўзброеную дапамогу. Аднак нанесці Міндоўгу ваеннае паражэнне не ўдалося. Пасля хрышчэння Міндоўга ў каталіцтва ў 1253 накіраваная супраць яго кааліцыя на чале з Т. распалася. Пэўны час Т. заставаўся ў Галіцка-Валынскім княстве і ў 1253 удзельнічаў у паходзе Данілы Галіцкага ў Чэхію. Пазней ён, відаць, прымірыўся з Міндоўгам. Магчыма, ужо ў 1258 Т. быў полацкім князем і ўдзельнічаў у сумесным паходзе палачан і літоўцаў на Смаленскую зямлю і Таржок, але яго імя ў сувязі з гэтымі падзеямі не згадваецца. У час татарскага паходу на Літву зімой 1258—59 Т. дзейнічаў разам з сынам Міндоўга *Войшалкам* супраць Данілы Раманавіча, саюзніка татар. У 1262 Т. прыгадваецца як князь полацкі. Відаць, быў адным з арганізатараў забойства Міндоўга ў 1263. Неўзабаве паміж Т. і пераемнікам Міндоўга *Транятам* пачалася барацьба за ўладу, у выніку якой Т. быў забіты.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Тахтамыш** (?—1406), хан Залатой Арды [1380—95]. Сын Туй-Хаджы аглана, нашчадка Джучы. У выніку міжусобнай барацьбы вымушаны быў у 1370-я г. шукаць прыстанішча ў сярэднеазіяцкага эміра Цімура. Пасля паражэння золатаардынскага цемніка Мамая ў *Кулікоўскай бітве 1380* заняў трон у Ардзе. У 1382 захапіў Маскву. У вайне 1389—95 супраць Цімура разбіты і ўцёк у ВКЛ. Быў паселены са сваёй дружынай у г. Ліда ў асабняку, які доўгі час наз. Тахтамышавым дваром. Прызнаваўся многімі татарскімі феадаламі ханам у выгнанні. Вял. князь літоўскі Вітаўт разлічваў вярнуць Т. рэальную ўладу ў Залатой Ардзе і атрымаць ад яго ярлык на Вял. княства Уладзімірскае (цэнтр у Маскве, заставалася васалам Арды). У 1397 і 1398 Т. удзельнічаў разам з Вітаўтам у 2 паходах на Дон і ў Крым супраць Цімур-Кутлака — золатаардынскага стаўленіка Цімура. З гэтых паходаў Вітаўт і Т. прывялі шмат татарскіх сем'яў (з крымскіх татар — праціўнікаў Цімур-Кутлука), якія добраахвотна перасяліліся ў ВКЛ і былі размешчаны на р. Вака і ў в. Сорак Татар (цяпер у Літве), у Берасцейскім, Лідскім, Менскім, Навагародскім, Троцкім пав., каля Чаркас і Канева (Украіна). У *бітве на Ворскле 1399* войскі Вітаўта, у т.л. дружына Т., былі разбіты Цімур-Кутлукам. Т. уцёк у Сібір, дзе быў забіты ханам Шадыбекам.

*Літ.*: Насонов А.Н. Монголы и Русь. М.; Л. 1940; Тизенгаузен В. Сборник материалов, относящихся к истории Золотой Орды. Т. 2. М.; Л., 1941; Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV—XV вв.). М., 1975; Думін С.У., Канапацкі І.Б. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Канапацкі І.Б., Смолік А.І. Гісторыя і культура беларускіх татар. Мн., 2000.

*Ібрагім Канапацкі.*

**Тацішчаў** (Татищев) Васіль Мікітавіч [19(29).4.1686, Пскоўскі пав.—15(26).7.1750], расійскі дзяржаўны дзеяч, гісторык. Удзельнічаў у Паўн. вайне 1700—21, у баявых дзеяннях на Беларусі ў 1705—06, у Палтаўскай бітве 1709; выконваў ваенна-дыпламатычныя даручэнні Пятра І. У 1720—22 і 1734—37 кіраўнік казённых заводаў на Урале, заснаваў г. Екацярынбург. Аўтар прац па гісторыі, геаграфіі, філасофіі, эканоміцы. На падставе шматлікіх летапісаў і інш. крыніц стварыў абагульняльную працу «Гісторыя Расійская з самых старажытнейшых часоў» (кн. 1—5, 1768—1848), дзе ўпершыню ў рас. гістарыяграфіі зрабіў спробу знайсці заканамернасці ў гіст. развіцці Расіі; гіст. прагрэс звязваў з развіццём асветы. Сярод выкарыстаных Т. крыніц былі летапісы, якія не дайшлі да нашага часу, у т.л. адзін са спісаў Полацкага летапісу. Дзякуючы гэтаму па яго творах удакладняюцца многія падзеі з гісторыі Беларусі, акалічнасці ўзнікнення ВКЛ (помсты Войшалка забойцам яго бацькі Міндоўга і інш.). Т. упершыню даследаваў пытанне паходжання і геаграфічнага значэння



тэрміна «Белая Русь», адносіў яго ўзнікненне да 12 ст. як назвы Растова-Суздальскіх зямель. Даследаваў узнікненне герба ВКЛ — «Пагоні», якую лічыў запазычанай са стараж.-рус. княстваў. Т. паклаў пачатак у Расіі этнаграфіі, крыніцазнаўству, упершыню апублікаваў «Рускую праўду», Судзебнік 1550. Аўтар першага рас. энцыклапедычнага слоўніка — «Лексікон расійскі гістарычны, геаграфічны, палітычны і грамадскі» (ч. 1—3, 1793, да літары «К»).

*Тв.*: Собр. соч. Т. 1—8. М., 1994—96; Избр. тр. по географии России. М., 1950; Записки. Письма, 1717—1750 гг. М., 1990.

*Літ.*: Попов Н. В.Н.Татищев и его время. М., 1861; Ермаловіч М.І. Тацішчаўскія звесткі пра Беларусь // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 2; Юхт А.И. Государственная деятельность В.Н.Татищева в 20-х—начале 30-х гг. XVIII в. М., 1985; Кузьмин А.Г. Татищев. 2 изд. М., 1987; Юхо И. Татищев о Белоруссии // Нёман. 1989. № 3; Заяц Ю.А. К вопросу о достоверности татищевского рассказа о Святохне // Гіст.-археал. зб. Мн., 2000. № 15; Майоров А.В. Из истории белорусского летописания: Полоцкая летопись В.Н.Татищева // Вестник Полоцкого государственного университета. А. Гуманитарные науки. 2005. № 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ткачоў** Міхаіл Аляксандравіч (10.3.1942, г. Мсціслаў—31.10.1992), беларускі археолаг, гісторык, грамадска-палітычны дзеяч. Д-р гіст. навук (1987), праф. (1989). Скончыў БДУ (1964). Працаваў настаўнікам у Жодзіне. З 1968 у Ін-це гісторыі АН БССР, з 1978 у Гродзенскім ун-це (у 1983—85 заг. кафедры). З 1989 заг. рэдакцыі гісторыі Беларусі, з красавіка 1992 гал. рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». Вывучаў ваен. гісторыю Беларусі, абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру гарадоў Беларусі 10—18 ст.: Навагрудка, Гродна, Віцебска, Гомеля, Чачэрска, Слаўгарада, Крычава, Мсціслава, Ліды, Крэва, Камянца, Заслаўя, Міра і інш. Адзін з аўтараў кніг «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Асвета і педагагічная думка ў Беларусі» (1985), «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 1—2, 1987—88), «Беларуская кафля» (1989).

*Тв.*: Замкі Беларусі (XII—XVII ст.). Мн., 1977; Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Замки Белоруссии. Мн., 1987; Замкі і людзі. Мн., 1991; Старажытны Мсціслаў. Мн., 1992 (з А.А.Трусавым); Вялікае мастацтва артылерыі: Казімір Семяновіч. Мн., 1992 (з А.М.Бельскім); Паходня. Мн., 1994.

*Літ.*: Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1993. Ч. 1 (змешчана бібліяграфія прац Т.).

**Трайдзень**, Трайдзен (?—1282?), вялікі князь літоўскі прыкладна з 1270. Уладу атрымаў пасля смерці галіцка-валынскага кн. *Шварна*, які дзякуючы шлюбу з дачкой *Міндоўга* некалькі гадоў быў вял. князем ВКЛ. Прыход да ўлады Т. прывёў да разрыву сувязі Літвы з Галіцка-Валынскім княствам і, відаць, суправаджаўся рэпрэсіямі супраць хрысціянства. Тым не менш пад уладай Т., апрача этнічна літоўскіх зямель, засталіся землі і гарады Бел. Панямоння. Яго гал. рэзідэнцыяй стаў замак *Кернаў*. Пры ім да ВКЛ канчаткова далучаны прылеглыя землі яцвягаў, земгалаў і селаў, аднавіліся далёкія набегі на эстонскія ўладанні крыжакоў (в-аў Саарэмаа і інш.) і на Польшчу. Каля 1274 Т. спрабаваў захапіць у галіцка-валынскага кн. Льва Данілавіча падляшскі г. Дарагічын. Т. супрацьдзейнічаў спробам экспансіі галіцка-валынскіх князёў у Панямонне і ваенным паходам татар на Літву (каля 1275 і ў 1277). Даваў прытулак уцекачам з Прусіі, дзе ў 1276 было задушана антыкрыжацкае паўстанне, рассяляў іх у ваколіцах Гародні і Слоніма. Нанёс цяжкае паражэнне войскам Лівонскага ордэна ў *Ашэрадэнскай бітве 1279*. У 1281 г. Т. дамогся пераходу пад кантроль ВКЛ новапабудаванага замка крыжакоў у Дынабургу (Даўгаўпілс). Дзякуючы шлюбу дачкі Т. Гаўдэмунды з князем Мазовіі Баляславам Плоцкім значна пашырыўся знешнепаліт. ўплыў ВКЛ.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Тракай** (Trakai), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр раёна, гл. *Трокі*.

**Транята** (?—1264), вялікі князь літоўскі [1263—64]. Пляменнік (сын сястры) *Міндоўга*. Упершыню згадваецца ў лівонскай «Старэйшай рыфмаванай хроніцы» ў сувязі з падзеямі 1260—61, калі Жамойць пазбавілася часовай залежнасці ад крыжакоў і перайшла пад уладу Міндоўга. Т. быў яго намеснікам у Жамойці і адным з найбліжэйшых дарадцаў, ідэолагам сумеснай барацьбы ўсіх балцкіх народаў супраць Тэўтонскага ордэна. Адзін з арганізатараў забойства Міндоўга ў 1263, пасля чаго атрымаў велікакняжацкую ўладу. Сутыкнуўшыся з прэтэнзіямі на ўладу з боку полацкага кн. *Таўцівіла*, забіў яго. Неўзабаве сам быў забіты змоўшчыкамі — прыхільнікамі Міндоўга.

***Вячаслаў Насевіч.***

**трацяк**, сярэбраная манета Польскага каралеўства і Рэчы Паспалітай у 3 *дэнарыі*. У ВКЛ сустракаліся Т. канца 16—пач. 17 ст. дзярж. манетных двароў Польскага каралеўства і гарадскіх манетных двароў, бітыя паводле ардынацыі 1580 у панаванне Жыгімонта III [1587—1632]. Лігатурная маса Т. Жыгімонта III 0,6 г, дыяметр 14—15 мм, таўшчыня 0,5 мм, проба 180 праміле.

*Літ.*: Kurpiewski J. Katalog monet polskich 1587—1637: (Zygmunt III Waza). Warszawa, 1990.

***Іван Сінчук.***

**трояк**, 1) сярэбраная, пасля медная манета Польскага каралеўства і Рэчы Паспалітай у 3 *грошы*. Упершыню каронны Т. выпушчаны Жыгімонтам I у 1528. У 2-й пал. 16—пач. 17 ст. адзін з масавых наміналаў. На аверсе змешчана партрэтная выява манарха або манаграма, на рэверсе — дзярж. герб альбо гербы і пазначэнне наміналу. Лігатурная маса Т. Жыгімонта II Аўгуста 2,7—3,0 г, дыяметр 22 мм, таўшчыня 1,0 мм, проба 875 праміле (ардынацыі 1545 і 1562). Т. ВКЛ упершыню выбіты ў 1546. Лігатурная маса Т. Стафана Баторыя і Жыгімонта III 2,4—2,0 г, дыяметр 19—21 мм, таўшчыня 1,0 мм, проба 844 праміле (ардынацыі 1580 і 1604), 453 праміле (ардынацыя 1623). Лігатурная маса Т. Яна II Казіміра, бітых паводле ардынацыі 1650, 0,9 г, дыяметр 15 мм, таўшчыня 1,0 мм, проба 875 праміле; паводле ардынацыі 1652 — 2,0 г, дыяметр 20 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 375 праміле; паводле ардынацыі 1658 — 1,7 г, дыяметр 20—21 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 375 праміле. Лігатурная маса Т. Яна III Сабескага, бітых паводле ардынацыі 1677, 1,7 г, дыяметр 20 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 375 праміле. У 18 ст. медныя Т. Рэчы Паспалітай выпускаліся Аўгустам III [1733—63] у Саксоніі і на гарадскіх манетных дварах, Станісла-



**Траякі**: 1—3 — Жыгімонт II Аўгуст (1562, 1565); 4 — Стафан Баторый (1581); 5—6 — Жыгімонт III (1593, 1597); 7 — Ян III Сабескі (1684); 8 — Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1786).

вам Аўгустам [1764—95] у Варшаве, Кракаве і на гарадскіх манетных дварах. 2) Сярэбраная манета Рас. імперыі для плацяжоў у Прусіі ў час Сямігадовай вайны, білася ў 1759—61 з лацінскімі легендамі адпаведна паказчыкам Т. Прусіі, лігатурная маса 1,5 г, проба 278 праміле. 3) Медная манета Прусіі ў 3 грошы 1796—97 для былых земляў Рэчы Паспалітай. 4) Медная манета Аўстрыйскай імперыі ў 3 грошы 1794 для былых земляў Рэчы Паспалітай. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 105.

*Літ.*: Walewski S. Trojaki koronne Zygmunta III od 1588 do 1624. Kraków, 1884; Gumowski M. Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914; Kurpiewski J. Katalog monet polskich 1649—1696: (Jan Kazimierz — Michał Korybut Wiśniowiecki — Jan III Sobieski). Warszawa, 1982

***Іван Сінчук.***

**Трокі** (літ. Тракай, Trakai, цяпер горад, цэнтр Тракайскага р-на, Літоўская Рэспубліка), горад, цэнтр *Троцкага ваяводства*. У 14—15 ст. былі важным паліт. цэнтрам ВКЛ. Паводле бел.-літ. летапісаў, вял. кн. Гедзімін перанёс сваю сталіцу з Кернава ў пабудаваныя ім Т. (1310-я г.?, да пераносу сталіцы ў Вільню). Там быў пабудаваны мураваны замак, пазней разбураны і закінуты. Гэта паселішча пазней атрымала назву Старыя Т., у 1405 вял. кн. Вітаўт заснаваў на месцы замка бенедыкцінскі кляштар. У далейшым Старыя Т. не адыгрывалі значнай ролі іператварыліся ў вёску (размешчана на ПдУ ад горада Т., які часам называўся Новыя Т.). Старыя Т. былі першапачаткова сталіцай удзельнага княства Кейстута, які, паводле летапісаў, збудаваў Новыя Т. і перанёс туды сталіцу. У Старых Т. нарадзіўся вял. кн. Вітаўт. У Новых Т. была адна з рэзідэнцый вял. кн. Вітаўта. У бел.-літ. летапісах Т. названы разам з Вільняй сталіцай вял. князёў Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча. У сярэдзіне 15 ст. ў Т. часта жыў вял. кн. Казімір. Пасля роля Т. знізілася з-за росту недалёкай Вільні. Значэнне Т. вызначалася збудаванымі тут у 14 ст. на востраве і паўвостраве *Троцкімі замкамі*. 2.6.1377 крыжакі беспаспяхова аблажылі Т., аднак горад быў спалены. У 1384 Вітаўт па жаданні сваёй жонкі Ульяны даў правасл. Троцкаму манастыру Раства Багародзіцы зямлю. Гэты манастыр (у статусе архімандрыі) упамінаецца крыніцамі да 18 ст. Пазней Сапегі збудавалі ў Т. мураваную Юр'еўскую царкву (упамінаецца ў 1630); у пач. 18 ст. згадваецца стараж. Троіцкая царква, а таксама месцы, дзе былі цэрквы Нараджэння Хрыстова і св. Мікалая. У канцы 14 ст. Т. ўпамінаюцца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх»: «Трокы Старыи каменны. А Новыи Трокы на езере две стены камены. А вышнии древян. А в острове камен». Вітаўт з дапамогай крыжакоў 11.9.1383 захапіў Т. і 2 месяцы іх утрымліваў. У 1387 Ягайла пацвердзіў свайму брату



**Трокі**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.



Скіргайлу права валодаць Т. і Троцкім княствам. Паводле *Востраўскага пагаднення 1392* Т. уключаны ў склад уладанняў Вітаўта. У 1409 ён заснаваў *Троцкі касцёл Марыі*, пры якім дзейнічала парафіяльная школа. З 1413 Т. — цэнтр Троцкага ваяв. і *Троцкага павета*. Акрамя літ. і ўсх.-слав. насельніцтва ў Т. жылі караімы і татары, якіх пасяліў тут Вітаўт. У 1430 у Т. адбыўся з'езд манархаў Еўропы з нагоды мяркуемай каранацыі Вітаўта, хутка пасля ён тут памёр. У 1440 у Т. забіты Жыгімонт Кейстутавіч. Ужо ў пач. 15 ст. Т. карысталіся магдэбургскім правам, якое ў 1441 пацвердзіў і пашырыў на караімаў вял. кн. Казімір. У 1516 Т. атрымалі прывілей на 2 кірмашы штогод. У канцы 16 ст. ў Т. адбываліся сесіі Трыбунала ВКЛ. У 1617 заснаваны кляштар бернардзінцаў, у 1678 — дамініканцаў, у 1638 — манастыр базыльян. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночную вайну 1700—21* Т. значна пацярпелі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковны, Трок, православных монастырей и по разным предметам. Ч. 1—2. Вильна, 1843; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 2, 5. Вильна, 1867, 1871; Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego z r. 1387: Przyczynek do badań nad ustrojem Litwy przedchrześcijańskiej // Przegląd Historyczny. 1907. T. 5, z. 1; Арунас М. Тракай. 2 изд. Вильнюс, 1973; Верцинкявичюс Ю. Тракай. Вильнюс, 1981; Baliulis A. Trakų magistrato aktų knygos (iki XVIII a. pabaigos) // Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. Vilnius, 1988; Яго ж. Trakų miesto privilegijos: (Lietuvos Metrikos duomenimis) // Там жа. Vilnius, 1992. Kn. 2; Baliulis A., Mikulionis S., Miškinis A. Trakų miestas ir pilys: Istorija ir architektūra. Vilnius, 1991

**Тросненская бітва 1368**. Адбылася ў час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72* на р. Тросна 21 ліст. (некат. крыніцы падаюць памылковую дату 21 снеж.) паміж войскам ВКЛ на чале з вял. кн. Альгердам і старажавым атрадам Вял. княства Маскоўскага. Кампанія 1368 (паводле маскоўскіх летапісаў — «первая литовщина») распачата Альгердам у падтрымку саюзнага ВКЛ Вял. княства Цвярскога. Раптоўнае з'яўленне войска ВКЛ «в силе тяжце» з ПдЗ (яно чакалася з боку г. Ржэў), забяспечанае поўнай сакрэтнасцю руху, заспела маскоўскага вял. кн. Дзмітрыя Іванавіча і яго саюзнікаў знянацку. 1-ю перамогу войска ВКЛ атрымала над кн. С.Дз.Старадубскім-Крапівой на р. Хоўхла (левы прыток Протвы), потым — над кн. К.Ю.Абаленскім і наблізілася да Масквы, дзе на р. Тросна (левы прыток Нары) яго сустрэла застава на чале з ваяводамі Дз.Мініным і А.Шубам. Цяжкаўзброеная конніца ВКЛ ушчэнт разграміла лёгкую, дрэнна ўзброеную і тактычна недасведчаную маскоўскую, абодва ваяводы і амаль усе ратнікі былі забітыя ці патанулі ў Тросне. Перамога ў Т.б. адкрыла Альгерду шлях на Маскву, 3-дзённая аблога якой была, аднак, беспасяховай (за год да гэтага быў пабудаваны мураваны Маскоўскі Крэмль).

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Пг.; М.; Л., 1922. Т. 15, ч. 1. С. 88; 1949. Т. 25. С. 185; 1965. Т. 28. С. 75, 237.

***Алесь Белы.***

**Троцкае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1413—1795. Цэнтр — г. *Трокі*. Утворана на тэр. Троцкага княства і *Гарадзенскага княства* пасля заключэння *Гарадзельскай уніі 1413*. Былі ўведзены пасады троцкіх ваяводы і кашталяна, якія па значэнні лічыліся другімі пасля пасад ваяводы і кашталяна віленскіх. У склад Т.в. ў 15 ст. ўваходзілі паўн., цэнтр. і паўд. часткі Літвы, прынёманскія землі Беларусі, Берасцейская і Новагародская землі, Падляшша, *Кобрынскае княства*, *Пінскае княства*, *Давыд-Гарадоцкае княства*, Тураўшчына. Гэтыя княствы, Берасцейская і Новагародская землі, Падляшша і Ковенскі пав. мелі самастойнае ад ваяводы кіраванне. На У Беларусі ў Т.в. ўваходзіла палова *Бабруйскай валасці*. Пасля ўтварэння ў 16 ст. Новагародскага, Падляшскага і Берасцейскага ваяводстваў тэр. Т.в. значна паменшылася. У 16—18 ст. у Т.в. ўваходзілі Троцкі, Ковенскі, Упіцкі, Гарадзенскі паветы. Пасля Люлінскай уніі 1569 ваявода і кашталян троцкія засядалі ў Сенаце Рэчы Паспалітай. Харугва Т.в. мела выяву «Пагоні» ў чырвоным полі, паветы мелі харугвы з «Пагоняй» у блакітным полі. У 18 ст. ўведзены мундзір ваяводства: белы жупан, пурпуровы кунтуш з зялёнымі адваротамі (на соймах); звычайны мундзір: цёмна-сіні кунтуш з адваротамі і жупанам колеру саломы. Паводле перапісу 1775 на тэр. Т.в. было 55 614 «дымоў». Паводле пастановы Гарадзенскага сойма 1793 Гарадзенскі пав. і створаны ў 1791 Мерацкі пав. пераўтвораны ў Гарадзенскае ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай указам Кацярыны II ад 14(25).12.1795 асн. частка Т.в. ўвайшла ў склад Віленскай губ., рэшта — у Слонімскую губ.

Ваяводы троцкія: Я.Я.Валімунтавіч (1413—32), П.Лелюш (1434—40), Я.Гаштольд (1440—43), І.Манівідавіч (1443—58), І.Вяжэвіч (каля 1460), А.Саковіч (1458—63), Радзівіл Осцікавіч (1463—77), С.Судзівоевіч (1478—83), Б.А.Саковіч (1484—91), П.Я.Мантыгірдавіч (1491—97), Я.Ю.Забярэзінскі (1498—1505), М.М.Радзівіл (1505—10), Р.С.Осцік (1510—19), А.Гаштольд (1519—22). К.І.Астрожскі (1522—30), Я.Я.Забярэзінскі (1531—38), С.Гаштольд (1542). Я.Гальшанскі-Дубровіцкі (1544—49), М.Радзівіл Руды (1550—66), С.Збаражскі (1566—86), Я.Я.Глябовіч (1586—90), М.К.Радзівіл Сіротка (1590—1604), А.Хадкевіч (1605—26), Я.Тышкевіч (1626—40), П.Пац (1640—42), А.Слушка (1642—47), М.Абрамовіч (1647—51), М.С.Пац (1651—70), М.Агінскі (1670—84), Ц.П.Бжастоўскі (1684—88), Е.Ю.Радзівіл (1688—89), Б.А.Уніхоўскі (1689—97), К.У.Сапега (1697—1703), М.К.Кацёл (1703—07), Е.Сапега (1707—09), К.Д.Агінскі (1710—30), Ю.Агінскі (1730—36), М.К.Радзівіл Рыбанька (1737—42), А.Пацей (1742—70), Т.Ф.Агінскі (1770—83), А.Агінскі (1783—87), Ю.М.Радзівіл (1788—95).

Кашталяны троцкія: Сунігайла (Ян; 1413—32), Пац (1452), М.Мантоўтавіч (1483—86), Мікалай Радзівілавіч (1488—91), Я.Ю.Забярэзінскі (1492—99), С.Я.Кезгайла (1499—1522), Я.М.Радзівіл (1522), Ю.М.Радзівіл (1522—27), С.С.Кезгайла (1527—32), П.С.Кішка (1532—34), Г.А.Хадкевіч (1544—59), Р.А.Хадкевіч (1559—64), С.А.Збаражскі (1564—66), Ю.А.Хадкевіч (1566—69), А.Валовіч (1569—79), К.М.Радзівіл (1579—84), Я.Я.Глябовіч (1585—86), М.К.Радзівіл Сіротка (1586—90), А.Ф.Пронскі (1590—96), М.С.Тальваш (1596—1600), Ю.М.Радзівіл (1600—13), Я.Е.Радзівіл (1613—25), А.У.Радзівіл (1626—33), К.Хадке-

віч (1633—36), М.Кішка (1636—40), А.С.Сапега (1641—44), Я.А.Вільчак (1644—49), А.Б.Агінскі (1649—67), Я.С.Кенштарт (1667—70), Я.К.Копаць (1670—80), Ц.П.Бжастоўскі (1680—84), Я.К.Кірдзей (1684—85), Ю.Б. Слушка (1685), С.В.Орда (1685—89), К.У.Сапега (1689—97), М.М.Крышпін-Кіршэнштэйн (1697—1700), М.К.Кацёл (1700—03), К.А.Пацей (1703—05), Я.У.Бжастоўскі (1705—10), М.Ф.Агінскі (1711—15), Я.Ф.Сапега (1716—35), М.К.Радзівіл Рыбанька (1735—37), А.К.Сапега (1737—39), А.Пацей (1740—42), М.Ю.Масальскі (1742—44), Т.Ф.Агінскі (1744—70), К.Л.Плятэр (1770—78), А.Агінскі (1778—83), Ю.М.Радзівіл (1784—88), Т.Білевіч (1788—90), К.К.Плятэр (1790—93), Ю.В.Плятэр (1793—95).

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Троцкі абраз Маці Божай**, першы каранаваны як цудатворны абраз у ВКЛ. Знаходзіўся ў *Троцкім касцёле Марыі*. Існавала легенда, што абраз намаляваны евангелістам Лукою і калісьці належаў візантыйскім імператарам; ён стаў шанаваным у Візантыі пры Іаане II Комнену [1118—43], калі той, перамогшы «гунаў», прывёз абраз у Канстанцінопаль і змясціў у адной з цэркваў. Каля 1400 імператар Мануіл II Палеалог [1391—1426] быццам прыслаў абраз Вітаўту, а той перадаў яго новазаснаванаму касцёлу ў Троках (1409). Звесткі пра цуды абраза вядомы з 1600. У канцы 16—пач. 17 ст. віленскія езуіты праводзілі працэсіі з Вільні ў Трокі, адбыў такую пілігрымку ў 1603 біскуп А.Война. У час эпідэміі ў Вільні ў 1664 абраз прыносілі з Трокаў у катэдру, і віленцы хадзілі да яго з працэсіямі. К.Л.Сапега падараваў на абраз залатую карону з каштоўнымі камянямі для Маці Божай, А.Нарушэвіч такую ж — для Ісуса; прыносілі ахвяры Л.І.Сапега і М.Пац. Да яго прыязджалі каралі Ян II Казімір і Ян III Сабескі, каралева Канстанцыя, жонка Жыгімонта III Вазы. Калі ў 1717 быў каранаваны Чанстахоўскі абраз Маці Божай, біскуп К.Бжастоўскі звярнуўся з хадайніцтвам у Рым аб такім жа ўшанаванні Троцкага. Урачыстасць адбылася 4.9.1718; выдаткі ў 40 тыс. злотых аплаціла Тэрэза Агінская з Бжастоўскіх і дадала 4 тыс. злотых на аздабленне залатымі каронамі, асвячонымі ў Рыме.




**Троцкі абраз Маці Божай**. Гравюра з кнігі І.Дрэўса «Спосаб паломніцтва». Вільня. 1684.

Іканаграфія абраза супярэчыць «візантыйскай» легендзе і сведчыць хутчэй пра італьянскае паходжанне. Абраз намаляваны на кіпарысавай дошцы, быў закрыты сярэбранай шатай з каронамі. Маці Божая прадстаўлена франтальна; правай рукой трымае на каленях дзіця, у левай — галінка з трыма кветкамі. Ісус правай рукой абапіраецца на кнігу, левая ўзнята ў благаславенні. Фон пасярэбраны, з разным арнаментам. Сучасныя гісторыкі мастацтва адносяць абраз да 2-й пал. 16 ст. Легенда аб паходжанні з Канстанцінопаля склалася, напэўна, у пач. 17 ці ў канцы 16 ст., калі яго культ набываў агульнадзярж. рэлігійна-паліт. характар. Гісторыя абраза ўпершыню надрукавана ў 1645, відаць, тады ж узнікла легенда пра Вітаўта. Медзярыты з абраза былі выкананы Л.*Тарасевічам* (1687), Барталамеем Страхоўскім, невядомым мастаком (1718). У 19 ст. культ Т.а.М.Б. саступіў культу Маці Божай Вастрабрамскай. Лёс арыгінала няпэўны, відаць, ён загінуў у 1655. Найб. вядомая копія цяпер захоўваецца ў Вільнюскай архікатэдры св. Станіслава (рама падаравана Тышкевічам). Копіі знаходзіліся ў дамініканскім касцёле ў Аглоне каля Дзвінска (Даўгаўпілса), Нясвіжскім кляштары бенедыкцінак. Іл. гл. таксма т. 1, с. 136.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Троцкі касцёл Марыі**, парафіяльны касцёл у *Троках*. Фундаваны ў 1409 вял. кн. Вітаўтам. На гравюры Трокаў пач. 17 ст. Т.Макоўскага касцёл паказаны як



**Троцкі касцёл Марыі**.

залавая гатычная пабудова, накрытая двухсхільным дахам, у цэнтры якога размешчана вежачка-сігнатурка. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1655 храм быў значна пашкоджаны. У працэсе аднаўлення перароблены з залавай пабудовы ў базіліку з элементамі готыкі і барока. Тады да гал. фасада прыбудавалі 2-вежавы прытвор. У 1718 храм асвячоны. Яго пробашчамі былі вядомыя паліт. і культурныя дзеячы ВКЛ: Б.Война, А.Валовіч, П.Сапега. Аўтэнтычнасць захавала пераважна ўсх. частка касцёла. Першапачаткова гэта была залавая гатычная пабудова, падзеленая на 3 нефы 4 крыжападобнымі ў сячэнні апорнымі слупамі. Цэнтр. неф адпавядаў па шырыні прэсбітэрыю, які заканчваўся шматгранныай апсідай. У прапорцыях плана шырыня пераважала над даўжынёй храма. Да паўн. сцяны прэсбітэрыя прымыкала сакрыстыя. У канструкцыйна важных месцах сцены ўмацоўвалі контрфорсы. Тарцовыя фасады завяршаліся франтонамі шматпрыступкавай формы. Цяпер храм — 2-вежавая базіліка з элементамі гатычнай і барочнай архітэктуры.

*Літ.*: Jankevičienė A. Lietuvos periferijos gotikinių bažnyčių architektūros bruožai // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūros ir dailė. Vilnius, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Троцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. Пасля стварэння ў 1413 *Троцкага ваяводства* Т.п. быў вобласцю, непасрэдна падпарадкаванай троцкаму ваяводзе. У склад Т.п. ўваходзілі Аліцкая, Алькеніцкая, Астрынская, Беліцкая, Бірштанская, Васілішская, Высакадворская, Дарсунішская, Доўгаўская, Дубіцкая, Жалудоцкая, Жыжморская, Зблянская, Здзецельская, Каняўская, Ляпунская, Мерацкая, Моўчадская, Навадворская, Неманойцкая, Ожская, Папорцкая, Перавальская, Пералайская, Пераломская, Пунская, Радунская, Самілішская, Стаклішская, Стравінніцкая, 2 Троцкія, Эйшышкская воласці (паветы). У ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 некаторыя зах. воласці Т.в. перададзены ў склад Ковенскага пав., паўднёвыя — у склад Лідскага і Гарадзенскага пав. Т.п. ахопліваў землі на левабярэжжы сярэдняга цячэння Віліі, на левабярэжжы Мерачы, у сярэднім цячэнні Нёмана, вярхоўя Шашупе з гарадамі і мястэчкамі Аліта, Араны, Высокі Двор, Ганусішкі, Еўе, Жодзішкі, Жослі, Жыжморы, Мерач, Пералая, Самілішкі, Сімна, Стаклішкі і інш. У 1791 з паўд. часткі Т.п. вылучаны *Мерацкі павет*, да Т.п. далучаны Гегужынская і Чабішкская парафіі са складу Віленскага пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэр. Т.п. ў складзе Рас. імперыі.

**троцкія замкі**, комплекс замкаў 14—15 ст. на востраве і паўвостраве ў *Троках*. У 1345—81 Трокі былі сталіцай *Кейстута*, адным з цэнтраў субманархіі — сістэмы своеасаблівага паліт. дуалізму, якім вызначаўся дзярж. лад ВКЛ у 14 ст. Замак Кейстута знаходзіўся на паўвостраве, на паўд. беразе воз. Гальве, займаў плошчу каля 4 га і складаўся з 2 частак: непасрэдна да горада прымыкаў пабудаваны з цэглы замак з 6 ці 7 квадратнымі вежамі; драўляны замак (Верхні), найб. старажытны, далучаўся да мураванай часткі з Пн і быў абкружаны азёрамі Гальве і Бернардзінскім (Лукас). Драўляны палац валадара знаходзіўся ў цэнтры Верхняга замка на пагорку (Ахвярная гара). Падчас барацьбы за ўладу паміж Кейстутам і Вітаўтам, з аднаго боку, і Ягайлам — з другога, з пераменным удзелам Нямецкага ордэна на тым ці іншым баку замак у 1382—83 зведаў шмат аблог і штурмаў. У 1414—30 праведзена яго рэканструкцыя. Верхні замак стаў мураваным з 3 вежамі, на цэнтр. пагорку пачата будаўніцтва мураванага палаца, але ў сувязі з пабудовай замка на востраве яно не было скончана.

Астраўны замак знаходзіцца на востраве воз. Гальве і быў пабудаваны як канвентгаўз, у якім сумяшчаюцца абарончыя, жылыя і адм. функцыі, з па-



Да арт. **Троцкія замкі**. Замак на востраве.



Да арт. **Троцкія замкі**. Замак на паўвостраве.



Да арт. **Троцкія замкі**. Замак на востраве.



дзелам на перадзамкавую (форбург) і рэзідэнцыйную часткі. Будаўніцтва пачата Вітаўтам у канцы 14 ст. і працягвалася 1-ю пал. 15 ст. Чатырохвугольная, амаль правільнай формы рэзідэнцыйная частка з усіх бакоў абнесена мурамі, асобныя праслы ўмацаваны контрфорсамі. У цэнтры дзядзінца паралельна адзін аднаму пабудаваны 2 трохпавярховыя прамавугольныя ў плане палацавыя карпусы, злучаныя драўлянымі галерэямі. Памяшканні палаца былі ўпрыгожаны паліхромным сценапісам свецкага зместу (вядомы паводле копій Й.Гопэна). Рэпрэзентацыйная зала з зоркавымі скляпеннямі знаходзілася на 2-м ярусе правага корпуса і мела памеры 10 х 21 м і вышыню 5,5 м. Праход у рэзідэнцыю адбываўся праз 6-ярусны данжон (вышыня каля 34 м), архітэктурнае вырашэнне якога падкрэслівала высокі паліт. статус уладара замка. З чацвёртага боку палацавы двор замкнёны мурам. Рэзідэнцыйная частка і форбург падзяляліся абваднёным ровам, праз які перакідваўся мост. Форбург мае ў плане трапецыю, сцены выкладзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі, 3 пяціярусныя вежы ў аснове маюць квадрат, вышэй — круг. Вежы прыстасаваны для размяшчэння гармат. У паўд.-зах. муры ўзведзена вежа-брама. Дзядзінец з зах. і ўсх. бакоў аточаны казематамі. Асн. будаўнічы матэрыял — палявыя камяні. Верхнія часткі фасадаў, скляпенні, аконныя і дзвярныя праёмы выкладзены з цэглы. Мяркуецца, што замак на востраве ўзведзены паводле ўзораў ордэнскай архітэктуры і пад уплывам французскіх і нідэрландскіх замкаў. Прынцып размяшчэння замка на востраве быў запазычаны іншымі краінамі, цесна звязанымі з ВКЛ, — у сяр. 15 ст. цвярскі кн. Барыс Аляксандравіч «заложи... город среди езера и нарекы ему Троки».

Замак на востраве разбураны рас. войскамі ў 1655 і пасля гэтага ўжо не адбудоўваўся. Даследчыцкія і кансервацыйныя працы пачаты ў 1904, праводзіліся ў 1929—31, 1936—40, 1951—52. На працягу 1955—62 улады Літвы правoдзілі маштабную рэканструкцыю замка, што выклікала незадавальненне цэнтр. савецкай прэсы. Кансервацыйныя працы на замку на паўвостраве праводзіліся ў 1953—61, з 2002 адбываюцца рэстаўрацыйныя працы на Ахвярнай гары. Т.з. з'яўляюцца састаўной часткай Тракайскага гіст. нац. парку.

*Літ.*: Турцевич А. Троцкий замок. Вильна, 1901; Zahorski W. Troki i zamek Trockų. Wilno, 1902; Kurschat A. Die Ruinen von Troko // Altpruessisches Monatschrift. 1904. [Bd.] 41; Kraujekis P. Trakų pilis ir jos likimas. Vilnius, 1924; Orda J. Trakų pusiasalio pilys // Valstybinės LTSR architektūros paminklų apsaugos inspekcijos metraštis. Vilnius, 1960. T. 2; Navickaitė O. Archeologinai tyrinėjimai Trakų salos pilyje // Там жа; Trakų pilys // Lietuvos pilys. Vilnius, 1971; Mikulionis S. Trakų salos pilis. Vilnius, 1978; Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1988. T. 1; Baliulis A., Mikulionis S., Miškinis A. Trakų miestas ir pilys: Istorija ir architektūra. Vilnius, 1991; Lisauskaitė B. Trakų pilių archeologiniai tyrimai 1971—1998 metais // Lietuvos pilių archeologija. Klaipėda, 2001; Filipavičiene G. Retrospection of Trakai Fortification System in the 14th—15th Centuries // Castella Maris Baltici. Vilnius, 2004. T. 6; Trakų istorinis nacionalinis parkas: http://www.seniejitrakai.lt/index.html; Trakų pusiasalio pilys: http://www.heritage.lt/restauravimas/vilniaus_aps/traku_pusiasalio_pilis.htm.

***Алег Дзярновіч.***

**«Троя»**, «Гісторыя траянскай вайны», «Аповесць пра Трою», помнік беларускай літаратуры 15 ст., гістарычная перакладная аповесць пра падзеі легендарнай Траянскай вайны. Асн. змест твора грунтуецца не на «Іліядзе» Гамера, а на больш позняй апрацоўцы нар. паданняў, якая ў антычную эпоху прыпісвалася грэку Дыктысу і траянцу Дарэсу (Дарэту) і выдавалася за ўспаміны сапраўдных удзельнікаў вайны. Паслужыла крыніцай для шматлікіх літаратурных апрацовак. У 15 ст. ўсх. славянам праз паўд.-слав. пасрэдніцтва стала вядома т.зв. «Прытча пра каралёў» з візантыйскай хронікі 12 ст. Канстанціна Манасіі, у канцы 15 ст. перакладзеная на бел. мову. У ёй апісваюцца гісторыя заснавання Троі, незвычайнае жыццё траянскага царэвіча Парыса (у бел. тэксце — Фарыжа), сцісла апісваецца традыцыйная фальклорна-паэтычная версія прычын узнікнення Траянскай вайны: грэкі выступаюць супраць траянцаў таму, што Парыс выкраў у іх царыцу-прыгажуню Алену. Асн. месца ў «Т.» займае апавяданне пра падзеі апошняга года вайны, якая скончылася смерцю яе гал. герояў (Гектара, Ахіла, Парыса і інш.). У творы ўслаўляюцца воінская мужнасць і доблесць герояў, падзеі асвятляюцца з гуманістычных пазіцый (асуджаецца неапраўданая жорсткасць на вайне, бязлітасnúmасць да пераможаных), з глыбокім спачуваннем аўтар ставіцца да трагічнага лёсу траянцаў і іх роднага горада. «Т.» карысталася значнай папулярнасцю сярод бел. чытачоў, яе і «Александрыю» згадвае Ф.Скарына.



Рукапіс **«Троі»**. 17 ст.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Трубніцкі** Юрый (1680?—1747), магілёўскі летапісец. З 1725 чл. магілёўскага магістрата, з 1734 рэгент гар. канцылярыі. Напісаў адну з частак *Магілёўскай хронікі* (запісы пра падзеі 1701—46), якую ў 1747 аб'яднаў з летапісам Т.*Сурты*. Асабліва падрабязна апісаў падзеі 1710-х г. перыяду *Паўночнай вайны 1700—21*, намаляваў яркія вобразы гіст. асоб таго часу. Пры складанні хронікі выкарыстаў успаміны сучаснікаў і ўдзельнікаў падзей, дакументальныя матэрыялы магілёўскага архіва, гіст.-літ. крыніцы. Апрача летапісу Сурты ўключыў у хроніку ананімны сатырычны памфлет «Карнавал іншаземны ў Польшчы», пасля хронікі змясціў «Гісторыю пра рэвалюцыю Шведскага і Дацкага каралеўстваў». Т. вылучаўся шырынёй поглядаў, юрыд. дасведчанасцю, смеласцю і сац. завостранасцю грамадскай пазіцыі, дэмакратызмам. Крытычна ставіўся да буйных феадалаў, прадстаўнікоў

буржуазіі, ганьбіў іх свавольства і карыслівасць, асуджаў іншаземную інтэрвенцыю і войны, высмейваў ваен.-паліт. бездапаможнасць Рэчы Паспалітай, спачуваў нар. масам. Хроніка мае вял. каштоўнасць як помнік л-ры і гістарыяграфіі Беларусі эпохі барока.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**«Трубы»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 100 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Войны, Грычыны, Нарбуты, Осцікі, Радзівілы, Развадоўскія, Рудаміны, Хвальчэўскія. У чырвоным полі 3 чорныя паляўнічыя трубы, злучаныя муштукамі, кожная з 4 залатымі пояскамі і перакручаным шнурком; клейнод — над прылбіцай з каронай 5 страусавых пёраў. Вядомы з канца 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**Трубяцкія**, княжацкі род у ВКЛ і Расіі. Паходзяць ад унука вял. князя літоўскага Гедзіміна *Дзмітрыя Альгердавіча*, які валодаў г. Трубчэўск на Браншчыне (адсюль прозвішча). Нашчадкі Дзмітрыя, князі Трубчэўскія (потым называліся Т.) захоўвалі свой удзел у ВКЛ да 1500, калі ўдзельны кн. Андрэй Іванавіч (?—1546) пасля заняцця маскоўскім войскам Трубчэўска перайшоў на службу да вял. князя маскоўскага Івана III. Прадстаўнікі роду захавалі прывілеяванае становішча і адыгрывалі важную ролю ў гісторыі Расіі 16—пач. 20 ст. Найб. вядомыя:

Аляксей Мікітавіч (?—1680), сын Мікіты Раманавіча. Баярын, ваявода, гл. *Трубяцкой* А.М.

Юрый Мікітавіч (?—да 1634), сын Мікіты Раманавіча. Стольнік, ваявода цара Васіля Шуйскага. У 1611 далучыўся да польска-літ. лагера. Выехаў разам з цесцем М.Г.Салтыковым (родапачынальнікам Солтысаў) у Рэч Паспалітую; у 1621 атрымаў ад Жыгімонта III Трубчэўск з воласцю, які ў выніку Дэулінскага перамір'я 1618 быў далучаны да ВКЛ.

Пётр (каля 1610—44), сын Юрыя Мікітавіча. Падкаморы, потым маршалак старадубскі.

Юрый (?—12.6.1679), сын Пятра. Пасля таго, як у 1645 Трубчэўск быў перададзены Расіі, выехаў у Маскву, атрымаў чын баярына. Пачынальнік галін роду Т., якія існуюць да нашых дзён.

*Міхаіл Красноў.*

**Трубяцкой** (Трубецкой) Аляксей Мікітавіч (?—1680), расійскі палітычны і ваенны дзеяч. З роду князёў *Трубяцкіх*. Узвысіўся ў час царавання Аляксея Міхайлавіча. З 1645 баярын. У 1646—62 узначальваў прыказы Сібірскі і Казанскага палаца, з 1661 і палкавых спраў. У жн.-вер. 1647 удзельнічаў у перагаворах з пасольствамі Рэчы Паспалітай і Швецыі, у сак. 1654 — з пасольствам Б.Хмяльніцкага пра ўмовы ўваходжання Украіны ў склад Расіі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* узначальваў у 1654—55 паўд. групоўку рас. войск, якая з раёна Бранска наносіла ўдар па Мсціславе, Магілёве і на Пд ад Менска. 22.7.1654 захапіў Мсціслаў (гл. *Мсціслава абарона 1654*), шмат жыхароў якога было забіта (т.зв. «Трубяцкая разня»), заняў Крычаў, Магілёў, у жн. 1654 аблажыў Быхаў (гл. *Быхава абарона 1654—55*). У вер. 1655 спрабаваў захапіць Слуцк (гл. *Слуцка абарона 1655*), адтуль здзейсніў рэйд па цэнтр. Беларусі, у выніку якога захоплены і спалены Цімкавічы, Клецк, Мір, Ляхавічы, Сталавічы, Мыш, Слонім, адтуль павярнуў на Пн і захапіў Навагародак, дзе злучыўся з казацкім войскам В.*Золатарэнкі*, што ішло ад Гародні. На зваротным шляху былі захоплены Нясвіж, Капыль і інш., зноў абложаны Слуцк. У 1656 (у час вайны Расіі са Швецыяй 1656—58) Т. узначальваў армію, якая ўзяла Дорпат (Тарту). У 1659—пач. 1660 кіраваў войскамі, якія дзейнічалі на Украіне. Удзельнічаў у задушэнні Маскоўскага паўстання 1662 і ў следстве над яго ўдзельнікамі.

*Літ.*: Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974; Саганові ч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995.

**Трусаў** Алег Анатолевіч (н. 7.8. 1954, г. Мсціслаў), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры, грамадска-палітычны дзеяч. Канд. гіст. навук (1981), дацэнт (1995). Скончыў БДУ (1976). З 1976 супрацоўнік, з 1978 начальнік археалагічнага аддзела Бел. рэстаўрацыйнага праектнага ін-та. З 1995 у Бел. ун-це культуры, у 1996—98 дэкан факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм. З 1999 старшыня Таварыства бел. мовы імя Ф.Скарыны. Вывучае помнікі манументальнага дойлідства, матэрыяльную культуру Беларусі 11—18 ст. Праводзіў раскопкі помнікаў археалогіі і архітэктуры ў Лідзе, Міры, Крэве, Мазыры, Заслаўі, Гродне, Віцебску, Навагрудку, Магілёве, Мінску, Мсціславе і інш.

*Тв.*: Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архитектурно-археол. анализ. Мн., 1988; Старонкі мураванай кнігі: Манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму. Мн., 1990; Беларускае кафлярства. Мн., 1993; Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка. Мн., 1994 (з Н.І.Здановіч, А.К.Краўцэвічам); Манументальнае дойлідства Беларусі XI—XVIII стст.: Гісторыя будаўнічай тэхнікі. Мн., 2001.

**Труска** (Truska) Людас (н. 6.4.1937, в. Петрашкяй Лаздзійскага р-на, Літва), літоўскі гісторык. Д-р габілітаваны (1996), праф. (1996). Скончыў Вільнюскі ун-т (1959). У 1959—66 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы. У 1966—88 выкладаў у Вільнюскім ун-це (з 1970 дацэнт), з 1988 — у Вільнюскім пед. ін-це, з 1997 — у Каўнаскім ун-це, з 2003 — у Вільнюскім пед. ун-це. Даследуе гісторыю Літвы 17—20 ст., праблемы дэмаграфіі і аграрнай гісторыі ВКЛ. Аўтар кніг: «Перапіс насельніцтва Вялікага княства Літоўскага 1790 г.» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojų surašymas 1790 m.», Вільнюс, 1972, з Р.Ясасам), «Царкоўнае землеўладанне ў Літве ў эпоху феадалізму (2-я палова XVIII—1-я палова XIX ст.» [«Bažnytinė žemėvalda Lietuvoje feodalizmo epochoje (XVIII a. 2-oje—XIX a. 1-oje pusėje)», Вільнюс, 1988] і інш.

**Труцэвіч** Іаіль, гл. *Іаіль*.

**Тры віленскія мучанікі**, Тры літоўскія мучанікі, праваслаўныя святыя Антоній, Іаан і Яўстафій (да хрышчэння Круглец, Няжыла і Кумец), якіх пакаралі ў 1347 у Вільні пакутніцкай смерцю за пераход з язычніцтва ў хрысціянства. Гал. крыніцамі пра іх жыццё з'яўляюцца слав. жыццяпіс «Сказанне пра віленскіх мучанікаў Іаана, Антонія, Яўстафія» (3-я чвэрць 14 ст., на думку М.Сперанскага, складзены сербскім аўтарам) і грэчаскае пахвальнае слова Міхаіла Вальсамона (канец 14 ст.). Паводле гэтых крыніц, яны былі прыдворнымі вял. князя літоўскага *Альгерда* і патаемна ахрышчаны святаром Нестарам. Напачатку хрысціянства прынялі браты Круглец

(Антоній) і Няжыла (Іаан), пазней — Кумец (Яўстафій). Зачэпкай для смяротнага прысуду стала публічная адмова Т.в.м. есці мяса ў пост і галіць бараду. Пасля зняволення ў турму і катаванняў Антоній, Іаан і Яўстафій былі павешаны 14.4, 24.4 і 13.12.1347. Напачатку яны пахаваны ў царкве св. Міколы і сталі шанавацца хрысціянамі як святыя. На месцы іх пакарання пазней заснаваны Троіцкі манастыр. У 1374 частка іх мошчаў перанесена ў Сафійскі сабор у Канстанцінопалі, у тым жа годзе мучанікі кананізаваны патрыярхам Філафеем па просьбе мітрапаліта кіеўскага Кіпрыяна, тады ж складзена ім царк. служба. Захавалася вышытая выява пакутнікаў на сакасе (святарскае адзенне) кіеўскага мітрапаліта Фоція. Культ Т.в.м. набыў не толькі вял. рэліг., але і паліт. значэнне для правасл. царквы ў ВКЛ. Духоўнаму подзвігу мучанікаў прысвечана карціна І.П.Трутнева «Віленскія мучанікі Антоній і Іаан» (1880-я г.). У 1915 у сувязі з пагрозай германскага наступлення мошчы па ініцыятыве архіепіскапа літоўскага і віленскага Ціхана (у 1917—25 патрыярх маскоўскі) перанесены ў Маскву, у 1946 вернуты ў Вільнюс і захоўваюцца ў кафедральным саборы Святадухаўскага манастыра. У 1993 крупінкі мошчаў, змешчаныя ў абраз, перанесены ў Петра-Паўлаўскі сабор Мінска. Т.в.м. глыбока ўшаноўваюцца правасл. насельніцтвам Літвы і Беларусі. У 1993 у Мінску створана Правасл. брацтва Т.в.м. Памяць 14(27) крас. — дзень спачыну Антонія і 13(26) ліп. — дзень перанясення мошчаў.

*Літ.*: Сперанский М.Н. Сербское житие литовских мучеников. М., 1909. Страдания Св. Виленских мучеников и чудотворцев Антония, Иоанна и Евстафия. Вильна, 1911; Антоний (Черемисов). Святые Виленские мученики Антоний, Иоанн и Евстафий — исповедники Православия в Литве // Журн. Московской Патриархии. 1977. № 3; Огицкий Д.П. К истории Виленских мучеников // Богословские тр. М., 1984. Сб. 25; Меендорф І. Тры літоўскія мучанікі: Візантыя і Літва ў 14 ст. // Праваслаўе ў Беларусі і ў сьвеце. 1993. № 1.

*Тацццяна Матрунчык.*

**Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага**, Галоўны Літоўскі Трыбунал, Галоўны суд, вышэйшы апеляцыйны суд ВКЛ. Створаны паводле закона




Дыярыуш **Трыбунала Вялікага княства Літоўскага**. 1782.

1.3.1581 «Трыбунал абывацелям Вялікага княства Літоўскага», пачаў дзейнічаць з 1582. Складаўся з суддзяў, якія штогод выбіраліся шляхтай на дэпутацкіх *сойміках* (па 2 суддзі-дэпутаты ад павета або ваяводства, калі яно не падзялялася на паветы). Выбранымі маглі быць толькі ўраджэнцы ВКЛ, шляхціцы, якія мелі ўласныя маёнткі, дасведчаныя ў праве і мясц. звычаях. Суддзі выбіралі маршалка (старшыню) Трыбунала. Абавязкі пісараў выконвалі пісары земскага суда таго горада, дзе адбываўся Трыбунал. Сесіі Трыбунала — *кадэнцыі* — напачатку праводзіліся ў Вільні і Троках (для тэр. Віленскага, Троцкага ваяв., Жамойці), Навагародку і Менску (для астатняй тэр. ВКЛ), з 1588 — штогод у Вільні і пераменна праз год у Навагародку і Менску, з 1755 — штогод у Вільні і Гродне. Кадэнцыя магла працягвацца, як правіла, не больш за 12 тыдняў, пасля чаго суддзі пераязджалі ў чарговы горад. Справы ў Трыбунале разглядаліся калегіяй з 2—7 суддзяў. Калі справа была больш важнай, Трыбунал засядаў у поўным складзе, за выключэннем суддзяў з тых паветаў, з якіх былі ісцец і адказчык. Для разгляду спраў аб царкоўнай маёмасці ўтваралася калегія з 3 трыбунальскіх суддзяў і 3 духоўных асоб, якіх вызначаў епіскап, а калі яны не прыходзілі да згоды, то справу вырашаў каралеўскі суд. Трыбуналу былі падсудны апеляцыйныя скаргі на выракі і дэкрэты (пастановы) *земскіх судоў, замкавых судоў* (гродскіх), *падкаморскіх судоў*, а таксама панскіх судоў у адносінах да служылых у паноў шляхціцаў, прыгавораных да пакарання смерцю, цяжкага турэмнага зняволення або вял. грашовага пакарання. Па 1-й інстанцыі Трыбуналу былі падсудны «вси справы прошлые, которых мы господар и продки наши не отсудили есмо, и вси справы пришлые, которые кольвек на суд наш господарский припадати бы мели» (г. зн. былога *гаспадарскага суда*), за выключэннем спраў «столу и скарбу нашому господарскому належачые и добр наших, которые судови нашому господарскому зоставуем подле Статуту». Асобную катэгорыю спраў у Трыбунале складалі скаргі на незаконныя дзеянні і злоўжыванні мясц. службовых асоб і суддзяў. Трыбунал меў права судзіць асоб, якія зневажалі трыбунальскіх суддзяў. Справы ў Трыбунале разглядаліся адкрыта з удзелам бакоў, іх адвакатаў (пракуратараў), кожнаму ўдзельніку працэсу дазвалялася мець пры сабе не больш як 2 сваіх прыяцеляў. Забаранялася прыходзіць у суд са зброяй, акрамя шаблі, мяча і шпагі. Судовыя пастановы (дэкрэты) прымаліся большасцю галасоў суддзяў, якія разглядалі справу, у дарадчым пакоі. Рашэнні Трыбунала выконваліся павятовымі судамі. Акрамя разгляду спраў Трыбунал выконваў натарыяльныя абавязкі: завяраў завяшчанні, сведчыў дагаворы куплі-продажу маёнткаў, пазыкі і інш. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 49.

*Літ.*: Акты, издаваемые Виленской археографичской комиссией. Т. 11,12,15. Вильна, 1880—88; Временник императорского Московского общества истории и древностей российских. Кн. 25. М., 1857; Леонтович Ф. Центральные судебные учреждения в Великом княжестве Литовском до и после унии // Журн. Мин-ва юстиции. 1910. № 2; Брэгер Г. Матэрыялы Мінскай кадэнцыі Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага ў вільнюскім архіве: (супастаўленне двух вопісаў) // Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. Мн., 1999. (Вяртанне; Вып. 6); Raudeliuas V.,

Wisner H. Z dziejów Trybunału Wielkiego Księstwa Litewskiego // Kwartalnik Historyczny. 1986. № 2.

*Язэп Юхо.*

**Трызны**, шляхецкі род герба «Газдава». Паходзяць з правасл. баярства Браншчыны, з 2-й пал. 15 ст. валодалі маёнткам Палонка ў Ваўкавыскім пав. Найб. вядомыя:

Рыгор Іосіфавіч (каля 1500—71), маршалак гаспадарскі ў 1560—66, кашталян падляшскі ў 1566—69 і смаленскі з 1569. Валодаў Палонкай, Ятвескам, Андрэевічамі ў Ваўкавыскім пав., Дарсунішкамі ў Ковенскім пав.; у 1567 ставіў у войска 22 коннікаў. З яго сыноў Пётр (?—1633) перайшоў у каталіцтва, быў старастам бабруйскім, ваяводам парнаўскім з 1626, Рыгор — маршалкам слонімскім.

Мікалай (?—10.10.1640), сын Рыгора. Падкаморы слонімскі з 1608, кухмістр ВКЛ у 1623—35, падскарбі земскі з 1635.

Гедэон Міхал (?—11.9.1652), сын Рыгора. Падстолі ВКЛ у 1631, стольнік ВКЛ у 1631—38, харужы гарадзенскі з 1637, крайчы ВКЛ у 1638—42, падчашы ВКЛ у 1642—44; падскарбі земскі з 1644, староста берасцейскі з 1624, суражскі і мсціслаўскі, адміністратар Гарадзенскай і Магілёўскай эканомій.

Марцыян (?—17.5 або 2.8. 1643), сын Рыгора. Канонік віленскі з 1620, адначасова духоўны пісар ВКЛ у 1628—41, духоўны рэферэндар у 1631—41, кааd'ютар віленскі ў 1638—43, біскуп-суфраган беларускі з 1639, падканцлер ВКЛ з 1641.

Павел Пётр (?—15.5.1639), сын Рыгора. Староста старадубскі ў 1630—36, абозны ВКЛ у 1633—38, падстолі ВКЛ з 1638.

Тэафіл (?—1645), сын Мікалая. Староста ваўкавыскі, ваявода берасцейскі з 1642.

*Вячаслаў Насевіч.*

**трынітарыі**, манахі каталіцкага ордэна св. Тройцы, заснаванага ў канцы 12 ст. ў Францыі ў час крыжовых паходаў з мэтай выкупу ў мусульман з няволі палонных хрысціян. Статут зацверджаны рымскім папам Інакенціем III 17.12.1198. На чале ордэна стаяў генерал, які жыў у Рыме (у 2-й пал. 18 ст. ім быў Станіслаў Аборскі з Валыні). Кляштары Т. былі ў Францыі, Іспа-



Да арт. **Трынітарыі**. Заснавальнікі ордэна трынітарыяў пакланяюцца Св. Тройцы. Мастак Ф.Смуглевіч. 1799.

ніі, Партугаліі, Італіі, Германіі, Аўстрыі, Польшчы, ВКЛ (у канцы 18 ст. каля 300 у свеце). У Францыі ордэн скасаваны ў час рэвалюцыі 1789—99, у інш. краінах — у 1-й трэці 19 ст., захаваўся толькі ў Італіі. У 1685 Т. з'явіліся ў Варшаве. У 1727 утворана Польская правінцыя ордэна Т. св. Іахіма, да якой належалі кляштары ў ВКЛ: у Бабінавічах (заснаваны ў 1782), Берасці (1728, фундатар навагародскі ваявода Я.Радзівіл, будынкі змураваны ў 1737—39), Вільні (на Антаколі; 1693, віленскі ваявода і гетман К.Я.Сапега), Віцебску (1758, віцебскі харужы М.Рэут), Крывічах (1770, троцкі цівун і падкаморы А.Укольскі з жонкай), Маладзечне (1758, троцкі ваявода Т.Агінскі), Оршы (1714, А.У.Саковіч), Трынопалі каля Вільні (1700, віленскі біскуп К.Бжастоўскі) і інш. У 1773 ва ўсёй правінцыі было 25 кляштараў, 303 манахі. За першае стагоддзе існавання Польскай правінцыі Т. яе манахамі было выкуплена з палону 517 чал. Кляштары Т. на тэр. Літвы і Беларусі скасаваны ў 1832, Віленскі — у 1864.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**«Трэнас»** (ад грэч. thrēnos плач, лямант), або «Лямант адзінай святой апостальскай Усходняй царквы з тлумачэннем догматаў веры», палемічны антыкаталіцкі і антыуніяцкі праваслаўны твор М.*Смотрыцкага*. Напісаны ў 1608 на польскай мове, выдадзены ў 1610 (надрукаваны гатычным шрыфтом) пад псеўданімам Тэафіл Арталог (Багалюб Праўдаслоў — грэч.) у друкарні Віленскага Святадухаўскага брацтва. Уключае «эпіграму» на герб *Вішнявецкіх*, прысвячэнне М.К.Вішнявецкаму, прадмову да чытача, 10 самастойных раздзелаў і правасл. Катэхізіс.

Найб. арыгінальнымі лічацца 1-ы і 2-і раздзелы, дзе змешчаны «Плач» і «Напамін» Усходняй царквы, якія сімвалізавалі прыгнечаную радзіму, ад імя якой аўтар заклікаў народы Беларусі і Украіны да аб'яднання супраць каталіцтва. У мастацкую тканіну «Т.» ўключаны ўрыўкі ў кананічных плачаў Бібліі і здабыткі вусна-паэтычнай творчасці беларусаў і ўкраінцаў. Мова твора макаранічная, насычана прыказкамі, прымаўкамі, разгорнутымі параўнаннямі. Для большай аўтарытэтнасці Смотрыцкі звярнуўся да сведчанняў 143 антычных і сярэдневяковых аўтараў, спіс якіх змешчаны ў прадмове.

За выданне «Т.» рэдактар брацкай друкарні *Лявонцій* Карповіч на 2 гады быў зняволены, амаль на 10 гадоў зачынена друкарня, канфіскаваны 36 экзэмпляраў твора, за яго куплю ці продаж пагражаў штраф 5 тыс. злотых. На «Т.» Смотрыцкага адразу ж адказалі «Перасцярогай на трэны і лямант Тэафіла Арталога...» (1610) П.*Скарга* і «Перэгорыяй» (1612) І.*Марахоўскі*. У сярэдзіне 17 ст. з'явіліся наследаванні «Т.» — «Плач зняважанай Польшчы» (1639) у рукапісным зборніку С.Дамяновіча і «Жалобны голас маці да сыноў» (1657). Пераклад «Т.» на бел. мову зрабіў у 1990 У.Кароткі.

*Публ.*: Бел. пер. — Трэнас // Беларусь. 1990. № 12; 1991. № 1, 6.

*Уладзімір Кароткі.*

**трэці падзел Рэчы Паспалітай**. Ажыццёўлены ў 1795 Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй у выніку падаўлення *паўстання 1794*. Расія планавала адзінаўладна распарадзіцца лёсам Рэчы Паспалітай, зыходзячы з занятасці Прусіі вайной супраць Францыі і нейтралітэту Аўстрыі. Аднак Прусія 10.5.1794 адвяла свае войскі з французскага тэатра ваен. дзеянняў і 3.6.1794 акупіравала г. Кракаў з ваяводствам, на што



прэтэндавала Аўстрыя. Апошняя ў адказ 15—30.6.1794 захапіла Сандамірскае ваяв. і Холмскую зямлю, што прывяло да тэрытарыяльных спрэчак і сварак вакол пасады галоўнакамандуючага саюзнымі карнымі войскамі. Захоп А.В.Суворавым Т.Касцюшкі і Варшавы (4.10.1794) дазволіў Расіі дыктаваць уласныя ўмовы падзелу. 10.1.1795 рас. імператрыца Кацярына II выступіла пасрэднікам уладкавання спрэчных доляй Прусіі і Аўстрыі праз Суворава і М.В.Рапніна, якім, аднак, загадала таемна заняць Беластоцкую акругу да лініі р. Буг—вусце р. Нараў—г. Гародня і не саступаць яе Прусіі. 3.1.1795 Расія і Аўстрыя размежавалі сферы сваіх інтарэсаў у Валынскім і Берасцейскім ваяв. да р. Буг, але без указання рас.-прускай мяжы паміж Бугам і Гародняй. Каб сутыкненне тут рас. і прускіх войск не перарасло ў вайну, бакі пайшлі на кампраміс: Прусія саступіла Кракаў Аўстрыі, Расія аддала Варшаву Прусіі. Трохбаковую канвенцыю пра падзел Рэчы Паспалітай Расія, Прусія і Аўстрыя падпісалі ў Пецярбургу 13(24).10.1795, 24.11.1795 пагадзіліся ўрэгуляваць спрэчныя пытанні, у т.л. адносна даўгоў караля польскага і вял. князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які 25.11.1795 адрокся ад трона. 16.1.1796 Расія вывела свае войскі з Беласточчыны і размясціла іх па лініі: вусце р. Нараўка—мяст. Гарадок—мяст. Кузніца—р. Ласосна—р. Нёман і далей да мяст. Паланга. Сумесная камісія 3.8.1796 зацвердзіла гэтую мяжу і 30.9.1796 дэмаркавала яе. Канчаткова тэрытарыяльныя долі падзелу трохбаковая камісія зацвердзіла 21.11.1796. Прусія атрымала большую частку Мазавецкага ваяв. з Варшавай, часткі Падляшскага, Гарадзенскага, Троцкага ваяв. і Жамойці (48 тыс. км²), Аўстрыя — Кракаўскае, Сандамірскае, Люблінскае, часткі Мазавецкага Берасцейскага і Падляшскага ваяв. (47 тыс. км²), Расія — Валынскае, Навагародскае, Віленскае, часткі Берасцейскага, Гарадзенскага, Троцкага ваяв. і Жамойці з гарадамі Берасце, Навагародак, Гародня, Вільня, Коўна (120 тыс. км²). 26.1.1797 бакі падзялілі даўгі былога караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і абавязаліся не ўжываць у сваіх тытулах назвы Польскага каралеўства. 3-і падзел стаў чарговай праявай агрэсіўнай палітыкі манархій Расіі, Прусіі і Аўстрыі, якія выкарысталі знясіленасць Рэчы Паспалітай для канчатковага знішчэння яе паліт. існавання і паслядоўнага захопу яе зямель. Далучаныя да Рас. імперыі тэрыторыі былі арганізаваны ў Віленскую і Слонімскую губерні.

*Літ.*: Rolle J. Stanisław August w Grodnie. Lwów, 1887; Historia dyplomacji polskiej. T. 2. Warszawa, 1982; Lord R.H. Drugi rozbiór Polski. Warszawa, 1984; Cegielski T., Kąziela Ł. Rozbiory Polski 1772—1793—1795. Warszawa, 1990; Zamojski A. Ostatni król Polski. Warszawa, 1994.

***Яўген Анішчанка.***

**Трэці статут Вялікага княства Літоўскага**, гл. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588.*

**тудаўляне**, этнаграфічная група ў заходняй частцы былога Ржэўскага пав. Цярской губ. У вузкім сэнсе — жыхары стараж. валасцей: Стары Туд, Малады Туд і Туд-Скаваратынь паабапал р. Туд, правага прытока Волгі. У шырокім сэнсе назва «Т.» ўжывалася этнографамі 19 ст. для абазначэння ўсяго беларускамоўнага насельніцтва правабярэжжа Верхняй Волгі. У 7—9 ст. гэты рэгіён, вядомы па «Аповесці мінулых гадоў» як Акоўскі лес, быў заселены смаленскімі крывічамі. У 13—14 ст. уваходзіў у склад Таропецкага і Ржэўскага княстваў. З 1-й трэці 14 ст. тут праходзіла мяжа ВКЛ з Маскоўскім і Цвярскім княствамі, былі пабудаваны «гради литовстии: Селук, Осечен, Горышин, Рясна, Сижка, Туд», якія часта пераходзілі з рук у рукі. Т. канчаткова засталіся па-за межамі ВКЛ пасля ўдакладнення межаў паводле *Паляноўскага міру 1634*, але з прычыны адноснай ізаляванасці краю (лясістасць складала каля $^3/_4$ тэрыторыі) доўгі час захоўвалі адметныя бел. рысы: мову, абрады («бабіна каша» і інш.), гульні («каралі», «проса»). Адрозніваліся ад суседняга велікарус. насельніцтва і насовамі — верхнім расхінным адзеннем з белага даматканага палатна, адкуль паходзіла іх мянушка «белакафтаншчына». Ужываліся і інш. мянушкі — «польшча», «шапляк і» (паколькі бел. гукі «дз», «ц», мяккі «с» падаваліся велікарус. насельніцтву шапялявымі). У Т. не існавала якой-небудзь саманазвы, хаця яны і ўсведамлялі сваё адрозненне ад уласна рускіх. У 1903 Т. даследаваў Я.Ф.Карскі, які вызначыў іх колькасць у 45 тыс., у 1925—26 яны падрабязна вывучаліся Н.П.Грынковай. У 20 ст. адрозненні Т. ад суседняга рус. насельніцтва практычна сцерліся, хаця асобныя моўныя і інш. рысы, уласцівыя беларусам, адзначаліся ржэўскім краязнаўцам І.Вішняковым яшчэ ў сярэдзіне 1960-х г.

*Літ.*: Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. Тверь, 1887; Успенский В. Литовские пограничные городки... Тверь, 1892; Попов В.М. Замечания о северно-смоленских и ржевских говорах // Изв. Отд-ния рус. яз. и словесности. СПб., 1913. Т. 18, кн. 3; Гринкова Н.П. Говор тудовлян Ржевского уезда // Там жа. 1926. Т. 31; Белы А. «Краіна вытокаў» // Спадчына. 1993. № 3.

***Алесь Белы.***

**Тупічэўскі Святадухаўскі манастыр**, праваслаўны манастыр ва ўрочышчы Тупічэўшчына каля Мсціслава ў 1641—1918. Заснаваны як мужчынскі манастыр паводле завяшчання мсціслаўскага крайчага Канстанціна Маскевіча яго нашчадкамі, якія далі для гэтага 2 валокі зямлі; паводле падання, там у пач. 17 ст. з'явіўся цудоўным чынам абраз Маці Божай. Акрамя Маскевічаў апекунамі манастыра сталі мсціслаўскія зямяне: скарбнік Б.Кацёл, гродскі пісар Я.Галынскі, а падкаморы Б.Статкевіч даў пляц з домам і агародам і атрымаў ад караля Уладзіслава IV прывілей на пабудову царквы, шпіталя і заснаванне школы «навук рускіх, польскіх і лацінскіх». Манастыр знаходзіўся ў юрысдыкцыі мітрапалітаў кіеўскіх. Драўляная крыжова-купальная царква Зыходжання Св. Духа закладзена ў 1641 і асвячона 1.10.1645 епіскапам мсціслаўскім, аршанскім і магілёўскім Сільвестрам Косавым. Акрамя Тупічэўскага абраза Маці Божай у манастыры знаходзіўся прысланы патрыярхам маскоўскім Ніканам Карсунскі абраз Маці Божай, які таксама лічыўся цудатворным. Манастыр падтрымлівалі рас. ўлады: Пётр I (наведаў яго ў 1708) і Ганна Іванаўна далі яму ахоўныя граматы. Па хадайніцтве Пятра I кароль Аўгуст II 28.11.1720 абвясціў непарушнасць правасл. манастыроў у Рэчы Паспалітай, у т.л. Тупічэўскага (пацверджана Аўгустам III у 1735). У 1724 рас. Сінод дазволіў манастырска-

му ігумену збіраць ахвяраванні і ў Расіі. Відаць, у 1-й пал. 18 ст. царква Зыходжання Св. Духа была размалявана, пры школе існавала брацкая Успенская царква (згарэла ў 1771), у 1771 пры настаяцельскіх келлях пабудавана новая драўляная (цёплая) царква Уводзін прасвятой Багародзіцы ў храм (перабудавана ў 1898). Пасля далучэння Мсціслаўшчыны да Рас. імперыі (1772) Т.С.м. пакінуты па-за штатам, у 1842 страціў самастойнасць і прыпісаны да Мсціслаўскага Мікалаеўскага манастыра. У 1877 манахі пераведзены ў будынкі былога *Бялыніцкага кляштара кармелітаў*. У 1886 манастыр адноўлены ў старых памяшканнях у Тупічэўшчыне як жаночы і прыпісаны да Мазалаўскага, у 1903 зноў стаў самастойным, прылічаны да 2-га класа. У 1891—95 намаганнямі ігуменні Анатоліі (Ганны Чарняўскай) пабудаваны мураваны Успенскі храм у неавізантыйскім стылі. У канцы 19 ст. пры манастыры дзейнічала царк.-прыходская школа, шпіталь, амбулаторыя. Манастыр зачынены ў 1918, будынкі разбураны ў 1930-я г.

*Літ.*: Пятницкий И. Тупичевский монастырь Могилевской епархии. 2 изд. Могилев, 1907; Ржавуская Т. Насценныя роспісы ў царкве б. Тупічэўскага манастыра ў Мсціслаўлі // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та бел. культуры. Мн., 1928. Пр. камісії гіст. мастацтва. Т. 1, сш. 1.

***Аляксандр Ярашэвіч.***



**Тураў**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

**Тураў** (цяпер горад у Жыткавіцкім р-не, Рэспубліка Беларусь), горад у Пінскім пав., на р. Прыпяць. Упершыню ўпамінаецца пад 980. З канца 1-га тыс. цэнтр княства, з 1005 — *Пінска-Тураўскай праваслаўнай епархії*. З пач. 14 ст. ў складзе ВКЛ, уладанне вял. князёў літоўскіх. У 1448—50 намеснікам вял. кн. Казіміра ў Т. быў кн. В.Ф.Астрожскі. Каля 1506 Т. падараваны кн. М.Л.Глінскаму, пасля здрады апошняга ў 1508 перададзены кн. К.І.Астрожскаму. Потым горад належаў яго ўдаве Аляксандры Сямёнаўне з роду князёў Алелькавічаў і сыну К.(В.)К.Астрожскаму. Па згасанні роду Астрожскіх (1620) Т. з ваколіцамі перайшоў ва ўладанне Сапегаў. У 17 ст. часткай Тураўскага маёнтка валодалі Любамірскія, а ў 18 ст. — Патоцкія. З 15 ст. Т. ў складзе Троцкага ваяв., з 1566 у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 1502 і 1521 Т. падвяргаўся нападам крымскіх татар. У 16 ст. горад складаўся з асн. часткі і 2 прадмесцяў — Заяцэлле і Запясочча. Насельніцтва Т. прымала ўдзел ў *антыфеадальнай вайне 1648—51*. У 1649 Т. захоплены і спалены войскамі Я.Радзівіла. Спустошаны ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1648 у Т. 401 дым, у 1667 — 111 дымоў, у 1790 — 497 дымоў. У 18 ст. Тураўскі маёнтак называўся графствам, хоць яго ўладальнікі не былі графамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Грушевский А.С. Пинское Полесье: Ист. очерки. Ч. 1—2. Киев, 1901—03; Тураўшчына: Мінулае, сучаснасць, будучыня. Вып. 1—4. Тураў; Мн., 2000—05; Лысенко П.Ф. Древний Туров. Мн., 2004; Тураў. Тураўскае Евангелле. Мн., 2004.

**Тураўлянскі замак.** Існаваў у 16 ст. ў сутоку рэк Дзвіна і Тураўлянка (цяпер Полацкі р-н). Пабудаваны ў 1563 паводле загаду Івана IV Грознага з каменю і дрэва. Квадратны ў плане замак меў 4 вуглавыя вежы і пятую вежу-браму з боку Тураўлянкі, цераз якую быў перакінуты драўляны мост на палях. Вежы з боку Тураўлянкі былі чацвярыковыя, крытыя ў 2 схілы, з боку Дзвіны — гранёныя або круглыя, з шатровым крыццём. Вежы мелі 3 баявыя ярусы: сярэдні з амбразурамі для гармат, ніжні і верхні з байніцамі для ручной агнястрэльнай зброі. Вуглавыя вежы стаялі на высокіх паўкруглых падмурках, сцены якіх былі прарэзаны круглымі байніцамі. Драўляная забудова замка была шчыльная. Сярод прамавугольных у плане жылых дамоў, накрытых 2-схільнымі дахамі, вылучаліся 2 збудаванні з купальнымі завяршэннямі, якія, верагодна, мелі культавае значэнне. 4.9.1579 да замка падышоў атрад войска ВКЛ пад камандаваннем кн. К.Лу-




**Тураўлянскі замак**. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

комскага. Рас. войскі спешна пакінулі Т.з. без бою. Заняўшы замак, Лукомскі загадаў страляць з усіх гармат. У выніку ўзнік пажар, які знішчыў замак. У 1579 С.Пахалавіцкі выканаў малюнак Т.з., паводле якога пазней зроблена гравюра.

*Юрый Якімовіч.*

**Тураўская праваслаўная епархія**, гл. ў арт. *Пінска-Тураўская праваслаўная епархія.*

**Турцэвіч** Арсен Восіпавіч (1848, Мінская губ.—пасля 1915), археограф, гісторык. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1872). Выкладаў у сярэдніх навучальных установах у Шаўлях і Вільні. З 1901 працаваў у Віленскай археаграфічнай камісіі. Аўтар прадмоў да *«Зборніка дакументаў, якія датычаць адміністрацыйнага ладу Паўночна-Заходняга краю пры імператрыцы Кацярыне II (1792—1796)»* (1903), да 35 і 38 тамоў «Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі» (1910, 1914), у якіх на падставе вывучэння інвентараў апісаў эвалюцыю феад. рэнты на Беларусі, падручнікаў «Руская гісторыя: (у сувязі з гісторыяй Вялікага княства Літоўскага» («Русская история: в связи с историей Великого княжества Литовского», Вільня, 1894; 13 выд. 1911), «Кароткі падручнік рускай гісторыі» («Краткий учебник русской истории», Вільня, 1903; 7 выд. 1913), склаў «Хрэстаматыю па гісторыі Заходняй Расіі» («Хрестоматия по истории Западной России», Вільня, 1892). Манархічна-клерыкальныя погляды Т. пасля 1905 сталі больш ліберальныя.

*Тв.*: Краткий исторический очерк Виленской комиссии для разбора и издания древних актов, 1864—1906 гг. Вильна, 1906; Русские крестьяне под владычеством Литвы и Польши: Краткий ист. очерк. Вильна, 1911.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 117—120.

**Турчыновіч** Восіп Вікенцьевіч (Іосіф Цэзар; вер. 1824—?), беларускі гісторык, правазнавец. Паходзіў са шляхты Магілёўскай губ. У 1858—60(?) у чыне тытулярнага саветніка служыў перакладчыкам у магілёўскім дваранскім сходзе. У пач. 1860-х г. у Іркуцкай губ., на пасадзе суддзі Ніжнеўдзінскага акруговага суда. Далейшы лёс невядомы. Паводле меркаванняў гісторыка У.І.Пічэты, Т. належаў да сталічнай школы гісторыкаў-юрыстаў. Аўтар некалькіх прац у галіне гісторыі права, а таксама першай гісторыі Беларусі — «Агляд гісторыі Беларусі са старажытнейшых часоў» («Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен», Пецярбург, 1857; 2 выд. Мінск, 2006; прадмова да кнігі напісана ў Магілёве ў сак. 1855). «Агляд» складаецца з 10 частак (кніг), падзеі даведзены да падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння тэр. Беларусі да Рас. імперыі ў канцы 18 ст. Шмат увагі Т. аддаваў асвятленню паліт. падзей.

*Тв.*: О поземельной собственности и наследстве в Древней Руси. СПб., 1853; История сельского хозяйства России от времен исторических до 1850 г. СПб., 1854.

*Ірына Грыбко.*

**Турэцкія войны**, гл. *Войны Рэчы Паспалітай з Турцыяй 17 ст.*

**Тызенгаўз** Антоній (1733, мяст. Наваельня Новагародскага пав.—31.3.1785), дзяржаўны і грамадскі дзеяч ВКЛ, мецэнат. Граф. З роду *Тызенгаўзаў*. З 1757 гарадзенскі падстараста, у 1761 пасол на сойм ад Гарадзенскага пав., з 1763 вял. пісар ВКЛ, з 1764 канюшы ВКЛ, у 1765—80 падскарбі надворны ВКЛ, гарадзенскі староста, адміністратар каралеўскіх эканомій у ВКЛ. У 1767—68 пасол на сойм ад Інфлянтаў. Праціўнік *Барскай канфедэрацыі*. У 1773—80 узначальваў каралеўскую партыю на соймах. Намаганнямі Т. Гародня стала месцам працы розных дзярж. устаноў: Скарбовай камісіі ВКЛ, Трыбунала ВКЛ, задворнага асэсарскага суда. У валоданні сям'і Т. знаходзіліся Камёнскі ключ (Гарадзенскі пав.), мястэчкі Ятвеск (Лідскі пав.), Іўе, Наваельня і Жалудок, палац у Вільні, шэраг будынкаў у Гародні.

Эканам. погляды Т. не ўяўлялі арыгінальнай тэорыі і былі выкладзены ў інструкцыі шляхты Гарадзенскага пав. на сойм 1766. Прыхільнік тэорыі фізіякратызму. Ініцыятар буйнамаштабных пераўтварэнняў у каралеўскіх эканоміях ВКЛ у галіне адміністрацыі, сельскай гаспадаркі, прамысловасці, шляхоў зносін, навукі і адукацыі. Правёў *Тызенгаўза рэформу*. Арганізаваў шэраг мануфактур (перш за ўсё *гарадзенскія каралеўскія мануфактуры*); агульная колькасць усіх эканам. прадпрыем-



А.**Тызенгаўз.**

стваў у ВКЛ у 1780 склала 47, на якіх працавала каля 1850 рабочых. Адм. цэнтрам дзейнасці Т. стала забудаванае ім прадмесце Гародні — *Гарадніца*, дзе размяшчаліся *Гарадзенскі батанічны сад, Гарадзенская медыцынская акадэмія, Гарадзенскі кадэцкі корпус*, школы мернікаў Маркевіча, бухгалтараў Барановіча, будаўнікоў Дж. Сака. Праводзіў ачышчэнне рэчышча Нёмана каля Гародні, арганізаваў сплаўны гандаль, Гандлёвую і камерцыйную кантору. Займаўся гадоўляй мяса-малочных парод жывёлы, племянных жарабцоў. Прымяняў парнікова-цяплічную сістэму. Ствараў парафіяльныя школы «для прыстойнай адукацыі сялянскіх, мяшчанскіх і яўрэйскіх дзяцей». Арганізаваў *Гарадзенскі тэатр Тызенгаўза, Гарадзенскую капэлу Тызенгаўза, Гарадзенскую музычна-тэатральную школу Тызенгаўза*. Заснаваў *Гродзенскую друкарню*. Рэканструяваў цэнтр мяст. Паставы. Меў вял. планы па будаўніцтве прамысловых прадпрыемстваў (фабрык фаянсу, труб, люстраў, азотнай і сернай кіслот, паперні, цукроўні), пабудове Мухавецка-Пінскага канала, развіццю асветы (адкрыццё гандлёвай школы для яўрэйскай моладзі, нядзельнай школы, «нямецкай» і «французскай» школ для дзяцей майстраў, курса бухгалтэрыі пры Гандлёвай канторы, с.-г. і ветэрынарнай школы, абсерваторыі і Гарадніцкай акадэміі). Аднак увядзенне мануфактур на крэдыце, неэканомнае выкарыстанне сыравіны, высокія прадажныя цэны і як вынік



слабы збыт прадукцыі, адсутнасць зацікаўленасці майстроў і рабочых, неэфектыўнасць прыгоннай працы прывялі да заняпаду прадпрыемстваў і да няўдачы гасп. палітыкі Т. У ліп. 1780 Т. адхілены ад кіравання каралеўскімі эканоміямі ў ВКЛ, пасля таго жыў у Гародні і Варшаве. Пахаваны ў фамільным склепе ў Жалудоцкім касцёле.

*Літ.*: Гибянский И.Г. Граф Антоний Тизенгауз и гродненские королевские мануфактуры. Пг., 1916; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Квитницкая Е. Строительство Тызенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. М., 1958. Сб. 11; Яе ж. Строительство Тызенгауза в Поставах // Там жа. 1961. Сб. 13; Kościałkowski S. Antoni Tyzenhaus: Podskarbi nadworny litewski. T. 1—2. Londyn, 1970—71; Kijas A. Działalność polityczna Antoniego Tyzenhauza // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza. Poznań, 1971. № 74; Gordziejew J. Ku czci pamięci Antoniego Tyzenhauza // Magazyn Polski. 1993. № 1/2.

*Юрый Гардзееў.*

**Тызенгаўза рэформа**, сістэма эканамічных мерапрыемстваў у каралеўскіх сталовых *эканоміях* ВКЛ у 1760—70-я г., праведзеных па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам надворнага падскарбія ВКЛ А.*Тызенгаўза*. Рэформа праводзілася ў час эканам. стабілізацыі пасля разбуральнага перыяду войнаў 2-й пал. 17—пач. 18 ст. Папярэдняя дзярж. аграрная палітыка, якая заключалася ў рознабаковай сістэме льгот і пераводзе скарбавых сялян з *паншчыны* на *чынш*, спрыяла адбудове да сярэдзіны 18 ст. ворнай гаспадаркі. Аднак тое, што дзярж. уладанні амаль заўсёды знаходзіліся ў трыманні або арэндзе буйных феадалаў, негатыўна адбівалася на іх гасп. развіцці. Таму на канвакацыйным сойме 1764 было вырашана перавесці пад непасрэднае кіраванне скарбу ўсе сталовыя каралеўскія ўладанні, гал. адміністратарам якіх стаў Тызенгаўз. Прапанаваныя ім аграрныя мерапрыемствы мелі на мэце павялічыць прыбыткі каралеўскага скарбу. Рэформы прадугледжвалі аднаўленне ў эканоміях *фальваркаў* з паляпшэннем апрацоўкі зямлі і выкарыстаннем зах.-еўрапейскай тэхнікі; арганізацыю ў эканоміях мануфактур, заснаваных на дармавой працы каралеўскіх сялян; стварэнне разгалінаванай сістэмы сухапутных шляхоў і сплаву па рэках для стымулявання гандлю.

Рэформа праводзілася як агульнадзярж. мерапрыемства. Яна ахапіла сталовыя эканоміі ВКЛ — Гарадзенскую, Берасцейскую, Кобрынскую, Магілёўскую, Шаўліскую і Аліцкую. Т.р. пачалася ў 1765 з перамеру зямлі, таму што пасля аднаўленчага перыяду 1-й пал. 18 ст. рэальная колькасць зямлі ў сял. гаспадарках часта была большай, чым надзелы, зафіксаваныя для падатковага абкладання. Сельскае насельніцтва падзялялася на 2 катэгорыі: цяглых, якія адпрацоўвалі паншчыну, і зямян, асн. павіннасцю якіх была выплата грашовай рэнты. Зямельны фонд, прызначаны для сялян, падзяляўся на 2 часткі: зямлю сядзібную (аселую) і прынятую. Кожная сял. гаспадарка была абавязана ўзяць чвэрць валокі як асн. надзел, з якога вызначаліся павіннасці ў залежнасці ад якасці глебы (добрая, сярэдняя, дрэнная, вельмі дрэнная) і маёмаснага стану селяніна (багаты, заможны, сярэдні, убогі). Зямлю, што заставалася пасля размеркавання асн. надзелаў, маглі разбіраць сяляне на добраахвотных пачатках у любой колькасці пры ўмове выплаты прызначанага з яе чыншу. Такая зямля называлася прынятай. Гал. павіннасцямі цяглых сялян былі адпрацовачныя (2 дні паншчыны на тыдзень з чвэрці валокі сядзібнай зямлі, 4 гвалты штогод і шарваркі на камунальныя патрэбы воласці), грашовыя выплаты (падарожчына, чынш за прынятую зямлю, падымнае, плата за свабоду бязмытнага гандлю) і натуральныя даніны (мядовая, грыбная, хлебнае дзякла). Зямяне за карыстанне зямлёй плацілі грашовую рэнту, а таксама аплачвалі грашыма інш. павіннасці, акрамя натуральных данін. Адказнасць за выплату падаткаў сяляне неслі агулам, у сувязі з чым павялічылася роля *грамады*. Рэформа прадугледжвала стварэнне «камунальных магазінаў», у якія ўсе без выключэння валашчане рабілі ўклады рознымі відамі збожжа на выпадак неўраджаю, стыхійнага бедства або для дапамогі збяднелым, і «камунальных кас», грошы з якіх павінны былі ісці на добраўпарадкаванне вёсак, утрыманне доктара, фельчара, вясковага радзільнага дома і інш. Такім чынам для сялян была створана своеасаблівая сістэма страхавання. Уводзіліся «правілы ўнутранага распарадку» для валашчан: яны не мелі права прымаць у сваіх дамах бадзяг, гультаёў, заразных хворых; павінны былі засцерагаць сваю жывёлу ад заразы; на таргі і кірмашы абавязаны былі ездзіць толькі ў каралеўскія мястэчкі і інш.

У выніку рэформы сяляне эканомій пазбавіліся злоўжыванняў з боку арандатараў і трымальнікаў, набылі магчымасць пашыраць сваё землекарыстанне за кошт прыёмнай зямлі, са згоды адміністрацыі мелі права на перадачу зямлі па спадчыне. Зварот афіцыйнай эканам. палітыкі да практыкі фальваркова-паншчыннай сістэмы дазволіў скарбу ВКЛ на некаторы час павялічыць даходы ад сваіх уладанняў з 900 тыс. злотых у 1765 да 1016 тыс. злотых у 1770/71. Але павышэнне прыбыткаў было вынікам не толькі ўдасканалення гаспадаркі, але і новага, дадатковага абцяжарання сельскага насельніцтва, якое не прыняло рэформу. Эканамічныя пераўтварэнні ў вёсцы, паводле разлікаў Тызенгаўза, у першую чаргу павінны былі забяспечыць інвестыцыі ў мануфактурную вытворчасць і дармавую рабочую сілу. На думку гісторыка В.Кулі, Т.р. была адзіна магчымай у тагачасных умовах, але распрацоўшчыкамі не было ўзята пад увагу магчымае супраціўленне сялян пераводу іх на паншчыну. Пратэсты сялян былі разнастайнымі — ад скаргаў і адмовы хадзіць на паншчыну да ўзброенага супраціўлення (*Шаўліскае паўстанне 1769*). Узмацненне павіннаснага абкладання сялян у выніку прывяло да пагаршэння эканамічнага становішча феадальна-залежнага насельніцтва каралеўскіх сталовых эканомій. Рэформа не была канчаткова рэалізавана ў сувязі з унутрыпаліт. (адхіленне Тызенгаўза ад пасады і інш.) і знешнепаліт. (падзелы Рэчы Паспалітай) падзеямі.

*Літ.*: Kościałkowski S. Ze studjów nad dziejami ekonomji królewskich na Litwie // Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilno, 1914. T. 5; Яго ж. Antoni Tyzenhauz: Podskarbi nadworny litewski. T. 2. Londyn, 1971; Kula W. Szkice o manufakturach w Polsce XVIII w. Cz. 1—3. Warszawa, 1956; Похилевич Д.Л. Аграрная реформа А.Тизенгауза и Шавельское восстание // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1958 г. Таллин, 1959; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Виль-

нюс, 1966; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мн., 1992; Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Мн., 1997.

*Ірына Кітурка.*

**Тызенгаўзы** (фон Тызенгаўзены), шляхецкі род уласнага герба «Буйвал». Маюць нямецкае паходжанне, у пач. 13 ст. прыбылі з Гальштэйна ў Інфлянты. Найб. вядомыя:

Готард Ян (?—1640), кашталян вендэнскі ў 1621—34, ваявода дорпацкі з 1634, староста марыенбургскі, шваненбургскі, керэпецкі.

Готард (?—1669), канонік і суфраган віленскі з 1661, абат гебдоўскі, біскуп-намінат метонскі, біскуп смаленскі з 1667.

Андрэй (?—8.2.1673), лоўчы ВКЛ з 1667, староста шмельтынскі, усвяцкі, вендэнскі.

Юрый (?—6/7.9.1679), палкоўнік войска ВКЛ, мечнік ВКЛ з 1650, пасол на сойм 1662, староста рэжыцкі, руенскі, румборгскі.

Стафан (?—24.12.1708), падстолі ВКЛ у 1687, ваявода навагародскі з 1689, староста дыяменцкі, купішскі.

Міхал Бенядзікт (? — да 12.10.1726), вял. пісар ВКЛ з 1714, староста шмельтынскі.

Ян Стафан (?—1730), вял. пісар ВКЛ у 1669—1714, ваявода мсціслаўскі з 1714, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1716 і 1720, староста дыяменцкі, купішскі.

Антоній (1733—85), гл. *Тызенгаўз А.*

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Тыкоцін** (польск. Tykocin, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв., на р. Нараў. Заснаваны на мяжы 14—15 ст. пры пераправе цераз Нараў на шляху з Вільні ў Польшчу. Гар. правы атрымаў у 1424 або 1425. У 1433 вял. кн. Жыгімонт Кейстутавіч выдаў прывілей І.Гаштольду на валоданне Т. (магчыма, гэта было пацвярджэнне ранейшага ўладання). У 1437 у Т. ўпамінаецца касцёл. У 1479 А.Гаштольд заснаваў у Т. кляштар бернардзінцаў. У 1522 у ходзе барацьбы Радзівілаў супраць Гаштольдаў радзівілаўскія войскі спалілі Тыкоцінскі замак. Пасля згасання роду Гаштольдаў (1542) Т. — уласнасць вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста. З 1644 цэнтр староства. У 1560-х г. пабудаваны новы мураваны замак (архітэктар Ё.Брэтфус), дзе знаходзіўся дзярж. арсенал Рэчы Паспалітай. У 1566 працаваў *Тыкоцінскі манетны двор*. У 16—18 ст. Т. — важны цэнтр рамяства і гандлю збожжам, порт на р. Нараў. У ходзе заключэння Люблінскай уніі 1569 Т. разам з Падляшшам далучаны да Польскага каралеўства. У 1571—1603 тыкоцінскім старастам быў *Л.Гурніцкі*, пасля *Весялоўскія*, якія зрабілі земляныя ўмацаванні вакол замка. К.Весялоўскі заснаваў у Т. шпіталь для ветэранаў. У 1655 Т. захоплены войскамі саюзніка шведаў Б.*Радзівіла*. Сюды прыбыў і тут памёр гетман Я.*Радзівіл*. У 1657 горад узяты ўрадавым войскам пад камандаваннем П.Я.Сапегі. У 1659 кароль перадаў Т. як узнагароду гетману С.Чарнецкаму (пацвердзіў сойм у 1661), пасля горадам валодалі Браніцкія, дзе ўладкавалі сваю рэзідэнцыю. Гетман Я.К.Браніцкі пабудаваў у Т. касцёл Св. Тройцы (1742—48), шпіталь (1750), кляштар місіянераў (1771), новы кляштар бернардзінцаў (пасля 1771), паставіў помнік Чарнецкаму. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: Monkiewicz W. Tykocin. Warszawa, 1983; Jarmolik W. Znaczenie i funkcje Tykocina w XVI—XVII wieku: Królewska historia miasta // Białostocczyzna. 1991. № 3; Яго ж. Burzliwe dzieje zamku tykocińskiego // Там жа. 1992. № 1; Maroszek J. Znaczenie i funkcje Tykocina w XVII—XVIII w.: Magnacka historia miasta // Там жа. 1991. № 4.

*Валерый Пазднякоў.*

**Тыкоцінскі манетны двор**, манетны двор ВКЛ у г. *Тыкоцін*. Выбіваў у 1566 паўгрошы і грошы літоўскія Жыгімонта Аўгуста паводле польскай стапы.

*Літ.*: Ivanauskas E. Produce of Tykocin Mint // Zapiski Numizmatyczne. Kraków, 1997. T. 2.

*Іван Сінчук.*

**Тылькоўскі** Войцех (19.4.1624, Мазовія—14.1.1695), філосаф, тэолаг, педагог. У 1645 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. У 1655—61 вучыўся ў Празе, працаваў у Чэхіі. Выкладаў маральную тэалогію і яўрэйскую мову ў Браневе (1663—64), філасофію і мтэматыку ў Браневе (1664—66) і Варшаве (1666—70), служыў у базіліцы св. Пятра ў Рыме (1670—73), рэгенс Папскай семінарыі і праф. матэматыкі ў Віленскай акадэміі (1773—75), прэфект школы ў Новай Мышы (1775—77), місіянер пры дварах біскупаў плоцкага і пазнанскага (1677—83), выкладаў маральную тэалогію і матэматыку ў Плоцку (1683—85), маральную тэалогію ў Варшаве (1685—92). Т. набыў вядомасць як вучоны-энцыклапедыст, пакінуў працы па тэалогіі, філасофіі, прыродных і дакладных навуках. Аўтар манументальнай серыі: «Займальная філасофія» («Philosophia curiosa», т. 1—9, 1669—90), «Займальная практычная геаметрыя» («Geometria practica curiosa», 1692), «Займальная арыфметыка» («Ariphmetica curiosa», 1668), «Займальная фізіка» («Physica curiosa», 1680), «Сямейны лекар» («Medicus familiaris», 1693), «Пра сельскую гаспадарку» («De re agrarian», 1681), «Навуковыя гутаркі, якія змяшчаюць у сабе амаль усю філасофію» («Uczone rozmowy», 1692) і інш. У Вільні выйшлі кнігі Т. «Дысідэнцкія абвінавачванні» (1718), «Крыніца дабрачыннай і палітычнай мудрасці, якая дапамагае пры застольных размовах» (1727), «Дасканалая мудрасць, заснаваная на Божым страху» (1743). Далучыўся да тэорыі Ц.Браге, згодна з якой Сонца рухалася вакол нерухомай Зямлі, а планеты рухаліся вакол Сонца. Для Т. характэрны маралізатарскі падыход да гісторыі. Адстойваў дамаганні каталіцкай царквы на вяршэнства ў хрысціянстве.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971. С. 29—33.

**тынф**, тымф, 1) у 2-й пал. 17 ст. народная, у 18 ст. афіцыйная назва сярэбранай манеты Рэчы Паспалітай, якая білася ў 1663—66 з серабра пробы 500 праміле, лігатурная маса 6,73 г, дыяметр 31 мм, таўшчыня 1 мм. Назва Т. паходзіць ад імя нямецкага паходжання арандатара манетных двароў у Польскім каралеўстве Андрэя Тынфа, ініцыялы якога стаялі на рэверсе манеты па баках геральдычнага шчыта. У пач. 18 ст. назва была запазычана нямецкай і рус. мовамі. Тыпалагічна Т. наследуе рэверс *орта*. Пазначэнне намінальнай вартасці «XXX GRO-POL» (30 грошаў польскіх) у парушэнне правіл геральдыкі памешчана ў геральдыч-



**Тынф** Яна II Казіміра. 1663.

ным шчыце. Т. меў рыначны курс орта. 2) Назва ў Рэчы Паспалітай сярэбранай манеты Прусіі, якая білася ў 1679—1750 з серабра пробы 641 праміле, лігатурная маса 6,30 г, дыяметр 29 мм, таўшчыня 1 мм. 3) Сярэбраная манета Рас. імперыі для замежных плацяжоў у часы *Паўночнай вайны 1700—21*. Білася ў 1707—09 з серабра пробы 500 праміле, лігатурная маса 6,40 г, дыяметр 29 мм, таўшчыня 1,2 мм. Пастанова берасцейскага сойміка 1714 называе яе «Т. маскоўскі». Прататыпам аверса Т. былі орты Рэчы Паспалітай 2-й пал. 17 ст. і зехстэльталеры Саксоніі пач. 18 ст., рэверса — прускія орты канца 17—пач. 18 ст. Былі ў абарачэнні ў Рэчы Паспалітай да сярэдзіны 18 ст. 4) Сярэбраная манета Рэчы Паспалітай, якая білася ў 1752—56 з серабра пробы 437 праміле, лігатурная маса 5,84 г, дыяметр 27 мм, таўшчыня 1,2 мм. У 1752—53 і 1755 манета мела пазначэнне наміналу «тынф». 5) Назва ў Рэчы Паспалітай сярэбраных прускіх перайманняў Т. Рэчы Паспалітай з паніжаным на 1/3 утрыманнем серабра. Біліся ў 1751—58 з серабра пробы 493 праміле, лігатурная маса 5,92 г, дыяметр 29 мм, таўшчыня 1 мм. У час Сямігадовай вайны 1756—63 фальсіфікаты біліся захопленымі ў 1756 на Лейпцыгскім манетным двары (Саксонія) штэмпелямі са старымі датамі. Проба была ніжэй, чым у сапраўдных Т. Аўгуста III, у 2,5 разы. 6) Назва ў Рэчы Паспалітай сярэбранай манеты Рас. імперыі для замежных плацяжоў у час Сямігадовай вайны. Білася ў 1759—61 з серабра пробы 500 праміле, лігатурная маса 5,85 г, дыяметр 27 мм, таўшчыня 1,2 мм. 7) Сярэбраная манета Рэчы Паспалітай гарадскіх манетных двароў Гданьска ў 1758—63 і Эльбланга ў 1763. Білася з серабра пробы 479 праміле, лігатурная маса 6,10 г, дыяметр 28 мм, таўшчыня 1,2 мм. Т. эльблангскі меў пазначэнне намінала «1.Т», гданьскі — «18» (грошаў).

Назва Т. ў канцы 17—18 ст. была сінанімічна орту, ужывалася ў дачыненні да манет большых за шасцігрошовік і меншых за чвэрць талера незалежна ад тыпу выявы. Асобныя катэгорыі Т. мелі курс адпаведна ўтрыманню метала, так, згодна універсалу 1761, Т. Рэчы Паспалітай 1663—66 ацэньваўся ў 38 грошаў меддзю, а Т. Рэчы Паспалітай 1752—56 «пад літарай Т» і «малая галоўка», «крулявецкі» 1759—61 з выяваю Лізаветы I, прускі 1755—56 — у 35 грошаў, Т. прускі 1752 і пазнейшыя — у 30 грошаў, Т. гданьскі 1759—60 — у 33 грошы, Т. іншыя (вроцлаўскі, «берлінка») — у 15 грошаў. Усе Т. адкліканы з абарачэння ў Рэчы Паспалітай універсалам 1766.

*Літ.*: Gumowski M. Fałszerstwa monetarne Fryderyka II // Przegląd Zachodni. 1948. R. 4; Hoensch J.K. Manipulacje walutowe Fryderyka II w okresie wojny siedmioletniej i ich wpływ na polską reformę monetarną z roku 1765—1766 // Roczniki Historyczne. 1973. R. 39; Mikołajczyk A. Obieg pieniężny w Polsce środkowej w wiekach od XVI do XVIII. Łódź, 1980; Синчук И.И. К атрибуции тынфов Яна Казимира 1663—1666 гг. // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў: Гіст. навука і гіст. адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы). Мн., 1993. Ч. 2; Яго ж. Тинфы Петра I из коллекции Государственного исторического музея // Информ. бюл. Ассоциации «История и компьютер» (специальный выпуск): Тез. докл. и сообщений II конф. М., 1994. Апрель. № 10; Рябцевич В.Н. Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I. Тольятти, 1995; Космылев В.С. К вопросу о денежной терминологии восточной Белоруссии в XVIII веке // Białoruś, Litwa, Polska, Ukraina: Wspólne dzieje pieniądza. Warszawa, 1996.

***Іван Сінчук.***

**Тышкевіч** Канстанцін Піевіч [5(17).2.1806, г. Лагойск—1(13).7.1868], беларускі гісторык, археолаг, краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. З роду *Тышкевічаў*, брат Я.П.*Тышкевіча*. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім, Забельскім дамініканскім калегіумах. Скончыў Віленскі ун-т (1828). У 1828—36 у міністэрстве фінансаў Каралеўства Польскага. З 1836 жыў у Лагойску, дзе заснаваў ашчадны банк для мяшчан і сялян, цукровыя заводы, палатняную мануфактуру і інш.; на аснове ўласных калекцый разам з бацькам і братам стварыў Лагойскі музей старажытнасцей. У 1861 удзельнічаў у рабоце мінскага губернскага камітэта па сял. пытаннях. Шмат вандраваў па Расіі і замежжы, чл. навук. таварыстваў у Вільні, Кракаве, Маскве, Празе, Парыжы, Лондане. Адзін з заснавальнікаў Віленскага музея старажытнасцей, чл. Віленскай археалагічнай камісіі. Даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышаў у Мінскай губ., стварыў першыя тапаграфічныя планы гарадзішчаў. Лічыў курганы старадаўнімі пахаваннямі, а гарадзішчы месцамі, дзе выконваліся розныя абрады. Першы класіфікаваў знаходкі па тэхніцы і матэрыялах выканання і звёў іх у табліцы. У 1856 арганізаваў экспедыцыю па р. Вілія, у выніку якой сабраў багаты этнаграфічны матэрыял і напісаў манаграфію «Вілія і яе берагі» («Wilija i jej brzegi», Дрэздэн, 1871). Адзін з раздзелаў кнігі «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі» прысвяціў знаходкам «стараж. пісьменнасці» ятвягаў. Паклаў пачатак вывучэнню старажытнасцей Лагойска, Заслаўя, Астрашыцкага Гарадка і інш. Багатыя зборы Т. ў значнай ступені разышліся па-за межы сучаснай Беларусі (Вільнюс, Варшава, Масква, Паланга і інш.).

*Тв.*: Wiadomść historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1859; О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865.

*Літ.*: Кахаоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX ст. Мн., 1984; Карев Д.В. Белорусская историография конца XVIII—нач. XX вв. // Наш радавод. Гродна, 1993. Кн. 5, ч. 2; Алексеев Л.В. Археология и историческое краеведение Белоруссии, XVI в.—30-е годы XX в. Мн., 1996.

***Дзмітрый Караў.***

**Тышкевіч** Яўстафій Піевіч [6(18).4.1814, г. Лагойск—27.8(8.9).1873], беларускі гісторык, археолаг, краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. З роду *Тышкевічаў*, брат К.П.*Тышкевіча*. Ганаровы чл. Пецярбургскай і Стакгольмскай АН, Лонданскага археалагічнага ін-та. Скончыў Мінскую гімназію (1831). У 1832—35 працаваў у б-ках Пецярбурга. У 1835—40 на службе ў губернскіх праўленнях Вільні, Харкава, Мінска. З 1840 ганаровы апякун школ Барысаўскага пав. У 1843 з мэтай археалагічных і гіст. даследаванняў наведаў Данію, Фінляндыю і Швецыю. З 1844

маршалак шляхты Барысаўскага пав. У 1847 у Мінску чл. часовай камісіі па зборы і выданні стараж. актаў, грамат і прывілеяў 16—18 ст. гарадоў Мінскай губ. У 1848—54 куратар Мінскай гімназіі. З 1855 папячыцель Віленскага музея старажытнасцей, які стварыў на аснове ўласных калекцый. Заснавальнік і старшыня Віленскай археалагічнай камісіі. Пасля паўстання 1863—64 вызвалены ад усіх пасад. Даследаваў курганы крывічоў, гарадзішчы ў Гальшанах, Друцку, Заслаўі, Крэве, Лідзе, Мінску, Міры, Слуцку. У сваёй археалагічнай дзейнасці пераймаў вопыт вучоных Зах. Еўропы.

*Тв.*: Rzut oka na źródła archeologii krajowej. Wilno, 1842; Listy o Szwecji. T. 1—2. Wilno, 1846—47; Opisanie powiatu borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim z dodaniem wiadomości: o obyczajach, spiewach, przysłowiach i ubiorach ludu, gusłach, zabobonach i t.d. Wilno, 1847; Badania archeologiczne nad zabytkami przedmiotów sztuki rzemiosł i t.d. w dawnej Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1850; Birże: Rzyt oka na przeszłość miasta, zamku i ordynacyi. St.-Petersburg, 1869; Naszy strony. Kraków, 1871; Groby rodziny Tyszkiewiczów. Warszawa, 1873.

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVIII—XIX стст. Мн., 1984; Каханоўскі Г.А., Каханоўскі А.Г. Руплівец нашай старасветчыны: Яўстах Тышкевіч. Мн., 1991; Карев Д.В. Белорусская историография конца XVIII—нач. XX вв. // Наш радавод. Гродна, 1993. Кн. 5, ч. 2; Алексеев Л.В. Археология и историческое краеведение Белоруссии, XVI в.—30-е годы XX в. Мн., 1996.

*Дзмітрый Караў.*

**Тышкевічы**, шляхецкі род герба «Ляліва». Паходзяць ад Каленіка Мішкавіча, якому ў 1437 вял. кн. Свідрыгайла падараваў сёлы ў Житомірскім і Оўруцкім пав. і маёнтак Чарталесы, у якім пазней Т. пабудавалі г. Бярдзічаў. З цягам часу колькасць маёнткаў павялічылася, ў т.л. на Беларусі. Ад імя сына Каленіка Мішкавіча Тышкі (Цімафея) утварылася прозвішча Т. Ад Тышкавага ўнука Івана (Скуміна) Львовіча пайшла старэйшая лінія роду — Скуміны-Тышкевічы, якая згасла ў 1808. Ад сына Тышкі Васіля пайшла малодшая лінія роду — Тышкевічы-Каляніцкія, пазней Т. Малодшая лінія падзялілася на бел. і ўкр. галіны, паводле месца-



Герб **Тышкевічаў**.
Гравюра 17 ст.

знаходжання сваіх маёнткаў. Васіль каля 1517 ажаніўся з Аляксандрай, дачкой кн. Сямёна Аляксандравіча Чартарыйскага, уладальніка Лагойска і навакольных зямель. Пасля смерці жонкі (1524) ён атрымаў палову Лагойскага маёнтка, а другую выкупіў у сястры жонкі (1531). Ад таго часу Лагойск — гал. рэзідэнцыя Т. на Беларусі. Лагойскі і Бярдзічаўскі маёнткі сталі маяратамі (непадзельнымі ўладаннямі). Васіль атрымаў ад караля польскага і вял.



Да арт. **Тышкевічы**. Я.Тышкевіч.
Гравюра з кнігі А.Дубовіча «Адпраўка асобы». Вільня. 1642.

князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста ў 1569 тытул графа «на Лагойску і Бярдзічаве», якім карысталіся яго нашчадкі. Графскі тытул Т. зацверджаны ў Расіі 8.5.1861, 17.12.1862 і 4.2.1902, у Саксоніі — 8.11.1871, у Аўстрыі — 7.10.1893. На Скумінаў-Тышкевічаў гэты тытул не быў пашыраны, і яны засталіся нетытулаванымі магнатамі. Дзякуючы велічыні сваіх маёнткаў да Люблінскай уніі 1569 Т. пастаянна засядалі ў соймах ВКЛ. У 2-й пал. 16 ст. з праваслаўя перайшлі ў каталіцтва. У 19 ст. графы Т. сталі ўладальнікамі Біржанскага маярата ў Ковенскай губ. У пач. 20 ст. Т. валодалі маёнткамі ў Мінскай, Віленскай, Ковенскай і Кіеўскай губ. Прадстаўнікі роду жывуць у Польшчы, Францыі, Бельгіі, Вялікабрытаніі. Найб. вядомыя з лініі Скумінаў-Тышкевічаў:

Іван Львовіч (Скумін; ?—да 17.7.1565), сын Льва Тышкевіча. Маршалак гаспадарскі і староста чарнобыльскі з 1558. У 1554 і 1559 вял. пасол да крымскага хана.

Фёдар Іванавіч (?—пач. 1618), сын Івана Львовіча. Падскарбі дворны ВКЛ у 1576—86, падскарбі земскі і пісар ВКЛ у 1586—90, ваявода новагародскі з 1590; староста браслаўскі з 1581, гарадзенскі, юрбаргскі і навадворскі ў 1608—15. У 1568 і 1577 пасол у Маскву. Удзельнічаў у паходах караля Стафана Баторыя супраць маскоўскіх войск.

Януш (каля 1572—27.5.1642), сын Фёдара Іванавіча. Вучыўся за мяжой. Удзельнічаў у пасольствах у Прусію, перагаворах са Швецыяй. Ваяваў супраць шведаў у Інфлянтах у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* і супраць туркаў у *Хацінскай бітве 1621*. Пісар вялікі ВКЛ у 1607—21, ваявода мсціслаўскі ў 1621—26, троцкі ў 1626—40, віленскі з 1640; староста браслаўскі з 1588, навадворскі ў 1611—13, юрбаргскі з 1620. Аўтар дзённіка мірных перагавораў са Швецыяй у 1625. Удзельнічаў у рэлігійнай палеміцы ў час заключэння Берасцейскай уніі 1596, выдаў брашуру «Ліст да Барэцкага і Смятрыцкага супраць царквы ўсходняй».

Аляксандр (каля 1748—17.3.1775), сын Юзафа. Цівун віленскі з 1761, абозны ВКЛ у 1773—74, пісар вялікі ВКЛ з 1774.

Людвік (каля 1750—26.6.1808), брат Аляксандра. Генерал-ад'ютант (1772), цівун віленскі з 1775, пісар вялікі ВКЛ у 1775—80, гетман польны ВКЛ у 1780—91, падскарбі вялікі ВКЛ у 1791—93, маршалак вялікі ВКЛ з 1793. У час панавання Таргавіцкай канфедэрацыі маршалак апошняга *Гарадзенскага сойма 1793*, падпісаў акт аб 2-м падзеле Рэчы Паспалітай і дагавор з Расіяй. Быў накіраваны на чале пасольства ад сойма ў С.-Пецярбург. У 1795 зноў паехаў да Кацярыны II на чале дэлегацыі для складання прысягі. Апошні з мужчынскіх прадстаўнікоў лініі Скуміных-Тышкевічаў.

Найб. вядомыя з графскай лініі Т.:

Васіль Тышкевіч (?—13.8.1571), сын Тышкі Каленікавіча. Маршалак гаспадарскі ў 1546—58, ваявода падляшскі ў 1558—69. Быў у магнацкай апазіцыі да палітыкі Жыгімонта Аўгуста па заключэнні дзярж. уніі з Польшчай, выступаў супраць Люблінскай уніі, таму пазбаўлены пасады падляшскага ваяводы і ў 1569 прызначаны ваяводам смаленскім. Староста краснасельскі, чаркаскі і канеўскі з 1536, менскі з 1544, ваўкавыскі з 1546, пінскі з 1569, бабруйскі, гайнаўскі. Удзельнічаў у бітвах з крымскімі татарамі. Ездзіў з пасольствамі ў Крымскае ханства і Маскву. З праваслаўя перайшоў у кальвінізм. 5.11.1569 атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста тытул графа «на Лагойску і Бярдзічаве».

Юрый Васілевіч (?—1576), сын Васіля Тышкевіча. Гаспадарскі дваранін, маршалак гаспадарскі ў 1558—66, ваявода берасцейскі з 1566; стараста ваўкавыскі з 1557. Пасол у Крымскае ханства ў 1552 і Маскву ў 1554.

Марцін (?—пасля 14.3.1595), сын Юрыя Васілевіча. Войт менскі з 1582, маршалак гаспадарскі з 1589, маршалак слонімскі.

Ян Астафі (?—да 4.11.1631), сын Юрыя Васілевіча. Каралеўскі ротмістр з 1601, падскарбі дворны ВКЛ у 1607—11, ваявода мсціслаўскі ў 1611—15 і берасцейскі з 1615; стараста мазырскі, дзяржаўца камянецкі.

Міхал Ян (?—пасля 1762), сын Эмануэля Уладзіслава. Харужы гусарскай роты палка булавы польнай літоўскай, уладальнік Лагойска.

Феліцыян (1719—92), сын Міхала Яна. Генерал-маёр войска ВКЛ (1759).

Юзаф Ігнацы (1724—22.12.1815), сын Міхала Яна. Палкоўнік войска ВКЛ.

Канстанцін (1806—68), гл. *Тышкевіч* К.П.

Яўстафій (1814—73), гл. *Тышкевіч* Я.П.

*Літ.*: Tyszkiewicz E. Groby rodziny Tyszkiewiczów. Warszawa, 1873; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Tyszkiewisz M. Monografia domu Tyszkiewiczów. Warszawa, 1900; Ягож. Materjały historyczno-genealogiczne do monografii domu Tyszkiewiczów. T. 1. Warszawa, 1911; Tyszkiewicz J. Tyszkiewiciana: Militaria. Bibliografia. Numizmatyka. Ryciny. Zbiory. Rezydencye etc. etc. etc. T. 1. Poznań, 1903; Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959.

***Анатоль Грыцкевіч.***



**Тэджвід**. Канец 18 – пач. 19 ст. Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі.

**тэджвіды** (араб. таджвід — правіла чытання Карана), дапаможныя кнігі беларускіх татар, па якіх вучыліся чытаць Каран. У Т. разглядалася чытанне літар арабскага алфавіта, вымаўленне гукаў, знакі паўз (спыненне голасу ў акрэсленых месцах Карана) і г.д. Большасць бел. татар акрамя некаторых рэлігійных тэрмінаў і формул услаўлення Алага і яго пасланніка Мухамада амаль нічога па-арабску не разумела. Чытаючы арыгінальны тэкст Карана, яны мелі перад сабой у кнігах для набажэнства пераклады на польскую мову, напісаныя арабскімі літарамі; некаторыя суры (раздзелы) Карана ведалі на памяць. Звычайна Т. — гэта частка *кітабаў*, як асобныя кніга Т. сустракаюцца рэдка. Адзін такі Т. перад 2-й сусветнай вайной знаходзіўся ў калекцыі муфціята ў Вільнюсе (страчаны). На сённяшні дзень Т. захаваліся толькі ў калекцыі Цэнтр. навуковай б-кі НАН Беларусі. Адна кніга складаецца з 23 аркушаў памерам 166 х 104 мм. У ёй можна вылучыць 2 почыркі. 1-м почыркам напісаны аркушы 1—4, дзе змешчаны правілы чытання Карана на цюркскай мове і 1-й суры Карана «Фаціха» на арабскай. 2-і перапісчык змясціў на аркушах 5—22 апісанне артыкуляцыі арабскіх гукаў на цюркскай мове з перакладам на бел.-польскую (славянскі пераклад напісаны наўскось пад кожным гарызантальным радком цюркскага тэксту). Адрозненне ў почырках, мовах і афармленні тэкстаў дало падставу лічыць гэты рукапіс як сукупнасць 2 Т. На думку А.К.Антановіча, артыкуляцыя арабскіх гукаў у рукапісе не заўсёды перададзена ўдала: асноўная ўвага ўдзелена месцу ўтварэння гукаў і амаль не апісваецца спосаб іх утварэння. На рукапісе захаваўся ўладальніцкі запіс: «Дворонинъ гор. Слонима Илья сын Ивана Шегидевичъ». Па вадзяных знаках паперы і арфаграфічных асаблівасцях тэкстаў можна меркаваць, што рукапіс узнік у канцы 18—пач. 19 ст.

*Літ.*: Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Drozd A., Dziekan M.M., Majda T. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 2000; Рукапісы беларускіх татараў канца XVII—пачатку XX стагоддзя з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай

акадэміі навук Беларусі: Каталог / Укладальнікі: І.А.Ганчарова, А.І.Цітавец, М.У.Тарэлка. Мн., 2003.

***Алена Цітавец.***

**Тэктандэр** (Тэктандэр фон дэр Ябель; Tecktander von der Jabel) Георг (1570—1614), нямецкі дыпламат, падарожнік. Аўтар апісання падарожжа з Чэхіі праз Польшчу, Беларусь і Маскоўскую дзяржаву ў Персію (Іран). У 1602—03 удзельнічаў у пасольстве імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Рудольфа II да персідскага шаха Абаса І. Мэта пасольства — саюз з Персіяй супраць Турэцкай імперыі. Т. як сакратар пасольства вёў нататкі ў час падарожжа. Пасольства выехала з Прагі і праз Сілезію, Варшаву, 20.9. 1602 прыбыло ў Гародню. Т. асабліва адзначыў добры замак, пабудаваны Стафанам Баторыем. 27 вер. пасольства было ў Вільні, дзе Т. адзначыў Віленскую акадэмію. З-за пашырэння ў ваколіцах горада эпідэміі пасольства накіравалася ў Менск, «збудаваны ўвесь з дрэва». Менскі «стараста», даведаўшыся, што пасольства едзе ў Маскву, смяяўся з таго, што рымскі імператар мае сябрам маскоўскага ўладара, а не якога-небудзь больш значнага манарха. 6.10.1602 пасольства прыбыло ў Оршу і затрымалася там на 8 дзён, бо трэба было паслаць ганца ў Смаленск і атрымаць дазвол на праезд маскоўскай мяжы. Мясцовы «ваявода» прыняў іх добра, бо быў знаёмы з паслом С.Какашам. 15.10.1602 пасольства праехала праз памежную вёску Баева і назаўтра праз лес даехала да ракі, «якая аддзяляла Беларусь... ад краіны Маскавітаў, таму гэтае месца называецца рускімі граніцаю». Праз Маскву, Казань і Астрахань пасольства ўлетку 1603 дабралася да Ленкарані, дзе затрымалася, каб атрымаць дазвол шаха на праезд у сталіцу; тут нечакана захварэў і памёр пасол Какаш. Функцыі пасла стаў выконваць Т. Пасля заканчэння пасольства Т. вярнуўся ў Маскву і ў 1604 праз Інфлянты — у Прагу, дзе даў справаздачу Рудольфу II. Першае выданне апісання падарожжа Т. невядомае, 2-е ён выдаў у Мейсене ў 1609, 3-е ў 1610. Яно перавыдадзена ў 1819 у Вене і ў 1877 (на французскай мове).

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Анатоль Грыцкевіч.***



**Тэфсір**. Менск. 1686. Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі.

**Тэўтонскі ордэн**, пашыраны варыянт назвы *Нямецкага ордэна* — каталіцкай рыцарска-манаскай арганізацыі і дзяржавы. Паходзіць ад лац. theutonicus немец, нямецкі (ад ням. Deutsche).

**тэфсір** (араб. тафсір — тлумачэнне, каментарый), у татар ВКЛ кнігі, якія змяшчалі тэкст Карана з перакладам і некаторымі элементамі каментарыя. Гарызантальна пісаліся радкі Карана на арабскай мове, а пад імі наўскось размяшчаўся пераклад на польскую мову. Перад і пасля асноўнага тэксту змяшчаліся малітвы і невял. тэксты пра рэлігійныя рытуалы ў час чытання Карана. Мусульмане разглядалі пераклад Карана на інш. мовы як парушэнне асноў ісламу, таму, відаць, татары ВКЛ і называлі такія пераклады Т. Пераклад Карана на польскую мову быў выкананы ў апошніх дзесяцігоддзях 16—пач. 17 ст. ананімным перакладчыкам. Існуюць 2 меркаванні наконт першапачатковай мовы перакладу. Бел. мовазнавец А.К.*Антановіч* лічыў, што спачатку пераклад быў зроблены на бел. мову (бел. пераклад захаваўся ў выглядзе цытат у некаторых кітабах) і толькі потым на польскую, магчыма, з беларускай. Польскія даследчыкі А.Дрозд, Г.Янкоўскі, Ч. Лапіч, а таксама швейцарскі лінгвіст П.Зутэр лічаць, што Каран з самага пачатку быў перакладзены менавіта на польскую мову. На думку Зутэра, пераклад на польскую мову быў вынікам сітуацыі дыглосіі ў ВКЛ, калі польская мова лічылася больш прэстыжнай, чым беларуская. Ён адзначае таксама, што Т. татараў ВКЛ з'яўляецца самым дакладным і дасканалым перакладам Карана на еўрапейскія мовы новага часу. Т. былі вял. кнігамі (400—500 аркушаў) і каштавалі дорага, іх перапісванне займала да паўгода. Кнігі захоўвалі ў вял. пашане, яны пераходзілі з пакалення ў пакаленне як найкаштоўнейшая рэліквія. Старэйшы з ацалелых Т. напісаны ў канцы 16 ст., ён змяшчае падрадковы пераклад Карана на цюркскую мову (прыватны кнігазбор). У Цэнтр. навуковай бібліятэцы НАН Беларусі захоўваецца Т., які быў напісаны ў Менску ў 1686. Ён змяшчае пераклад часткі тэксту Карана (суры 2—18) на цюркскую мову і часткі тэксту (суры 19—114) на польскую мову (самая ранняя копія перакладу Карана на польскую мову). На сённяшні дзень зарэгістравана 13 Т., якія захоўваюцца ў Цэнтр. навуковай бібліятэцы НАН Беларусі (2), Гродзенскім дзярж. музеі гісторыі рэлігіі (1), Нац. музеі Літвы (1), бібліятэках Вільнюскага (1) і Пецярбургскага (2) ун-таў, бібліятэцы імя Ф.Скарыны ў Лондане (1) і ў прыватных калекцыях (5).

*Літ.*: Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Drozd A., Dziekan M.M., Majda T. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 2000; Drozd A. Koran staropolski: Rozważania w związku z odkryciem tefsiru mińskiego z 1686 roku // Rocznik Biblioteki Narodowej. Warszawa, 2004. T. 36; Suter P. Alfurkan Tatarski: Der litauish-tatarische Koran-Tefsir. Köln; Weimar; Wien, 2004.

***Алена Цітавец.***



**Увараўскі летапіс**, гл. *Слуцкі летапіс*.

**угайнае**, гл. *Гайнае*.

**Ужэвіч** Іван, беларускі і ўкраінскі філолаг і паэт сярэдзіны 17 ст. Паходжанне і дакладныя даты жыцця невядомы (часам называюцца даты каля 1610—пасля 1645). У 1637—41 вучыўся ў Кракаўскім ун-це (запісаны як Ioannes Petri Uzewicz d. Vil. — Іван, сын Пятра, Ужэвіч, Віленскай дыяцэзіі), у 1643—45 вывучаў тэалогію ў Сарбонскім ун-це (Парыж). Вядомы яго панегірык «Вобраз цноты і славы» (Кракаў, 1641), напісаны яшчэ студэнтам на польскай мове ў гонар вяселля шляхціцаў Пшыленцкіх. Напісаў на лацінскай мове «Граматыку славенскую» (захавалася ў 2 варыянтах: парыжскі рукапіс 1643 і араскі 1645, апрацоўка папярэдняга, абодва аўтографы), у якой апісаў літаратурна-пісьмовую (аўтар называе яе «простай», «lingua popularis») мову ВКЛ (часам падаючы бел. і ўкр. варыянты) са спасылкамі на элементы царк.-слав. мовы і заўвагамі наконт інш. слав. моў. Паводле патрабаванняў тагачаснай навукі, У. у сваёй працы адаптаваў структуру лацінскай граматыкі да фактаў бел. і ўкр. моў. Прыклады і парадыгмы ў яго напісаны кірыліцай. Адчуваецца знаёмства з граматыкамі польскай мовы П.Статорыуса (Стаенскага) 1568 і царк.-слав. мовы М.Сматрыцкага (1619). У. стварыў таксама размоўнік на «простай» і царк.-слав. мовах (парыжскі рукапіс-аўтограф), пераклаўшы лацінскую версію папулярнага ў 16—18 ст. шматмоўнага размоўніка Наэля дэ Берлемонта. Размоўнік, відаць, мусіў ілюстраваць моўным матэрыялам граматыку; абедзве гэтыя працы прызначаліся У. для зах. чытачоў. Паводле асаблівасцяў роднага дыялекту, вызначаных Д.Бунчычам, У. паходзіў з цэнтр. ці зах. Палесся. Выдадзены пераклады граматыкі У. на ўкр. мову Я. Кудрыцкага (1970, парыжскі рукапіс) і бел. мову А.Жлуткі (2001, араскі рукапіс).

*Тв.*: Граматика слов'янська І.Ужевича / Підгот. І.К.Білодід, Є.М.Кудрицький. Київ, 1970; Яскевіч А.А. Старабеларускія граматыкі. Мн., 2001. С. 261—346; Rozmova / Beseda: Das ruthenische und kirchenslavische Berlaimont-Gesprachsbuch des Ivan Uževyč / Hrsg. D.Bunčić, H.Keipert. München, 2005.

*Літ.*: Соболевский А.И. Грамматика И.Ужевича // Чтения в Ист. о-ве Нестора-летописца. Киев, 1906. Т. 19. № 2; Jagić V. Johannes Uĉevič, ein Grammatiker des 17. Jh. // Archiv für slavische Philologie. 1907. Bd. 29; Горбач О. Рукописна «Граматыка словенская» Івана Ужевича з 1643 й 1645 років // Наукові записки Українського технічно-господарського інституту. Мюнхен. 1967. Т. 16 (17); Белодед И.К. «Славянская грамматика» Ивана Ужевича 1643 г. // Известия АН СССР. Сер. л-ры и языка. 1972. Т. 31. № 1; Dingley J. The Two Versions of the Gramatyka Slovenskaja of Ivan Uževič // The Journal of Byelorussian Studies. 1972. Vol. 2. № 4; Жовтобрюх М.А. «Граматика словенская» Івана Ужевича — пам'ятка староукраїнської літературної мови // Слово і труд. Київ, 1976; Мечковская Н.Б. Ранние восточнославянские грамматики. Мн., 1984; Німчук В.В. Мовознавство на Україні в XIV—XVII ст. Київ, 1985; Keipert H. «Rozmova/Beseda»: Das Gesprachsbuch Slav. № 7 der Bibliotheque nationale de France // Zeitschrift für Slavische Philologie. 2001. Bd. 60. Hf. 1; Bunčić D. Die ruthenische Schriftsprache bei Ivan Uževyč unter besonderer Berücksichtigung der Lexik seines Gesprachsbuchs Rozmova/Beseda. München, 2006.

***Ігар Клімаў.***

**«Узаемнае заручэнне абодвух народаў»**, канстытуцыйны акт Рэчы Паспалітай па зацвярджэнні федэратыўнага раўнапраўя ВКЛ і Кароны Польскай у рэчышчы уніфікацыі іх цэнтр. выканаўчых органаў улады на аснове *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Прыняты адзінагалосна на пленарнай сесіі Чатырохгадовага сойма 20.10.1791 у рэдакцыі прадстаўнікоў ВКЛ К.Хамінскага і Ю.Несялоўскага пад старшынствам маршалка К.Н.Сапегі. Уключае 5 прынцыпаў адм.-судовай самастойнасці ВКЛ у саюзе з Каронай Польскай: роўнае прадстаўніцтва ў *Вайсковай камісіі абодвух народаў* і *Скарбовай камісіі абодвух народаў* з пачарговым старшынствам у іх, роўная колькасць міністраў і дзярж. ураднікаў у інш. інстытутах улады, самастойны дзярж. скарб, існаванне скарбовага суда ў ВКЛ. «У.з. а.н.» абвешчана артыкулам (дапаўненнем) акта *Люблінскай уніі 1569*, *Пакта канвента* і часткай *Канстытуцыі 3 мая 1791*.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 9. Kraków, 1889; Бардах Ю. Канстытуцыя 3 мая і «Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў» 1791 г. // Бардах Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002.

***Яўген Анішчанка.***

**Узда** (цяпер горад, цэнтр Уздзенскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., на р. Уздзянка. Вядома з 1450 як двор Корсакаў. З 16 ст. мястэчка Кавячынскіх, Завішаў, Красінскіх. У 1572 у У. быў С.*Будны* ў сувязі з выданнем Бібліі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Укмярге** (Ukmergė), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр раёна ў Вільнюскім пав., гл. *Вількамір*.

**Украіна**, гістарычны і этнічны рэгіён у ВКЛ. Упершыню назва «У.» выкарыстана ў Іпцьеўскім летапісе пад 1187 у адносінах да Пераяслаўскага княства. Пад 1189 У. названа Паніззе — частка Галіцкага княства паміж Паўд. Бугам і Днястром, пад 1213 — сумежныя з Польшчай землі Галіцка-Валынскага княства па Зах. Бугу. Зах. землі сучаснай У. называліся *Русь, Валынь*, з 14 ст. — таксама *Малая Русь*. Ва ўрадавай дакументацыі ВКЛ з 16 ст. назва «У.» ўжывалася ў асноўным у дачыненні да Сярэдняга Падняпроўя («украинные земли»). З 17 ст. яна выкарыстоўвалася ў справаводстве Запарожскай Сечы, казацкіх летапісах, нар. песнях, крыніцах замежнага паходжання для абазначэння ўсіх зямель, населеных украінцамі. У гэтым значэнні яна канчаткова замацавалася ў 18—19 ст.

*Літ.*: Храпчевский Р.П. Русь, Малая Русь и Украина: происхождение и становление этнонима // Российские и славянские исследования. Мн., 2004. Вып. 1.

**Ула**, рака ў Лепельскім, Чашніцкім і Бешанковіцкім р-нах Віцебскай вобл., левы прыток р. Зах.Дзвіна. На беразе У. адбылася *бітва на Уле 1564*.

**Ула** (цяпер гарадскі пасёлак у Бешанковіцкім р-не, Рэспубліка Беларусь), горад у Полацкім ваяв., пры ўпадзенні р. Ула ў Дзвіну. Узнік як умацаваны пункт у *Інфлянцкую вайну 1558—82* (нельга блытаць з прыватным мяст. Ула, якое існавала за 35 км на Пд ад сучаснага г.п. Ула). У 1563 па загаду Жыгімонта Аўгуста на мысе пры зліцці суднаходных рэк Дзвіна і Ула было пачата будаўніцтва *Ульскага замка*. Аднак працы, якімі кіраваў італьянскі інжынер, не былі завершаны. Рас. войскі нечаканым нападам знішчылі недабудаваны замак і па загаду цара Івана IV самі пачалі ўзводзіць умацаванні на здабытай пляцоўцы. Летам 1567 будаўнічыя работы яшчэ працягваліся.




**Украіна**. Карта 17 ст.

У лют.—сак. 1568 Улу безвынікова асаджала войска ВКЛ пад камандаваннем Я.Хадкевіча. 20.8.1568 У. штурмам захапілі атрады кн. Р.Ф.Сангушкі (гл. *Улы аблога 1568*). Пры штурме замак быў спалены. Адбудаваны восенню 1568 пад наглядам Сангушкі. Да сярэдзіны 1570 пад сценамі замка было заснавана «места». 10.4.1571 Жыгімонт Аўгуст вызваліў ульскіх мяшчан ад аплаты ўсіх мытных збораў на тэрыторыі ВКЛ, а таксама ад падатку з вытворчасці і продажу алкагольных напояў тэрмінам на 5 гадоў. 26.1.1577 Стафан Баторый сваім прывілеям пашырыў на У. сістэму гарадскога права, якая ў 2-й пал. 16 ст. склалася і функцыянавала ў Віцебску. Жыхары У. засталіся пад юрысдыкцыяй мясцовага дзяржаўцы (старасты), які мог судзіць іх толькі ва У. ў прысутнасці войта і старшых мяшчан. Мяшчане атрымалі права на выбар войта, бязмытны гандаль на тэрыторыі ВКЛ (не датычыла ўвозу солі з Рыгі і вывазу воску ў Рыгу і Вільню), правядзенне 2 кірмашоў у год, вольнае распараджэнне сваёй рухомай і нерухомай маёмасцю, свабоду выбару месца жыхарства на тэрыторыі ВКЛ і інш. Ім былі перададзены землі на адлегласці 1 міля вакол замка. Гал. павіннасцю ульскіх мяшчан было нясенне коннай вайсковай службы. 27.1.1577 Стафан Баторый надаў Уле герб — «замок и вежу одну». Пасля Інфлянцкай вайны У. страціла стратэгічнае значэнне. У 1-й пал. 17 ст. трапіла ў прыватныя рукі. 31.3.1648 У., якая на той момант была ўласнасцю Себасцьяна Мірскага, земскага браслаўскага суддзі, атрымала прывілей на магдэбурскае права. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад знаходзіўся ў зоне актыўных баявых дзеянняў. Пасля 1667 застаўся у складзе ВКЛ. У 1669 тут збудаваны драўляны касцёл Св. Духа. У 1764 ва У. 8 вуліц і 2 слабады, 187 двароў, каля 900 чал. насельніцтва. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Alexandrowicz S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989; Макараў М. Віцебскае мейскае права // Гістарычны альманах. Гародня, 2003. Т. 8.

***Максім Макараў.***

**Уладзімір** (цяпер Уладзімір-Валынскі, укр. Володимир-Волинський, горад, цэнтр Уладзімір-Валынскага р-на, Украіна), горад, цэнтр Уладзімірскага пав., на р. Луга (правы прыток Зах. Буга). Упершыню ўпамінаецца пад 988. Быў цэнтрам *Уладзіміра-Берасцейскай праваслаўнай епархіі.* З 12 ст. цэнтр удзельнага Валынскага княства, з 1199 — Галіцка-Валынскага княства. Ва У. знаходзіўся драўляны замак. У 1340 заняты кн. *Любартам*, у 1349 — польскім каралём *Казімірам III*, па ініцыятыве якога заснавана *Уладзімірская рымска-каталіцкая епархія*. Пасля яго смерці (1370) У. далучаны да ВКЛ. У 1431 захоплены польскім войскам, аднак хутка вернуты ВКЛ. У 1469, 1491, 1495, 1499 на У. нападалі заволжскія і крымскія татары. У 15 ст. атрымаў гар. правы, 17.7.1509 — магдэбургскае права. Меў герб з выявай св. Георгія на кані, які кап'ём коле цмока. У 1554 пабудаваны драўляны касцёл св. Іаакіма і Ганны. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у складзе Валынскага ваяв., цэнтр павета. У ходзе заключэння Люблінскай уніі 1569 У. разам з Валынню далучаны да Польскага каралеўства. У горадзе працавала школа пры епіскапскім саборы (пасля базыльянская, у 18 ст. называлася калегіумам, мела 6 класаў), у 17 ст. — друкарня. У пач. 17 ст. ва У. 10 рамесных цэхаў. У 1648 захоплены сялянска-казацкімі атрадамі, у 1653 — урадавым войскам Рэчы Паспалітай. З 1719 дзейнічала місія езуітаў, у 1762—73 — езуіцкая рэзідэнцыя. У 1751 касцёл св. Іаакіма і Ганны перададзены ордэну капуцынаў, у 1752 адбудаваны з цэглы пасля пажару. У 1755—66 пабудаваны мураваны езуіцкі касцёл (пасля 1773 базыльянскі), 1780 — мураваная уніяцкая капліца св. Іасафата Кунцэвіча. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Теодорович Н.И. Город Владимир Волынской губернии в связи с историей волынской иерархии: Ист. очерк. Почаев, 1893; Pawiowski W. Zamek Włodzimierski (Królewski) // Ziemia Wołyńska. 1939. № 3.

***Валерый Пазднякоў.***



**Уладзімір**. Успенскі сабор. Малюнак Н.Орды.



**Уладзімір**. Капліца св. Іасафата Кунцэвіча. Малюнак Н.Орды.

**Уладзімір Альгердавіч** (1332?—пасля 1398), князь кіеўскі, капыльскі і слуцкі. Сын вял. кн *Альгерда* і яго 1-й жонкі Марыі, князёўны віцебскай. З умацаваннем улады Альгерда на Украіне пасля *бітвы каля Сініх Вод 1362* У.А. атрымаў ад бацькі Кіеўскае княства. Праводзіў палітыку пашырэння княства за кошт чарнігаўскіх, пераяслаўскіх і кантралюемых Ардой стэпавых зямель; распачаў чаканку манеты. Садзейнічаў мітрапаліту кіеўскаму і ўсяе Русі *Кіпрыяну* ў цэнтралізацыі рус. правасл. царквы, але пазней іх адносіны сталі халоднымі. Падтрымаў палітыку вял. кн. Ягайлы на заключэнне уніі ВКЛ з Польшчай. У 1387 выступаў сведкам пры наданні Ягайлам у Вільні прывілеяў каталіцкай царкве ў ВКЛ. У 1390 войска У.А. ўдзельнічала ў захопе сталіцы ўладанняў Вітаўта — Гродні. Вітаўт пасля замірэння з Ягайлам (*Вострaўскае пагадненне 1392*) заключыў з былым намеснікам у ВКЛ Скіргайлам дагавор, згодна з якім той саступаў Вітаўту землі з цэнтрамі ў Вільні, Троках і Полацку, а Вітаўт абяцаў здабыць для Скіргайлы Кіеў і перадаць яму інш. уладанні на Украіне. У.А. адмовіўся прызнаць уладу Вітаўта ў ВКЛ і выплаціць яму даніну, шукаў падтрымкі ў Маскве. Ягайла і Вітаўт пачалі рыхтаваць супраць У.А. ваенны паход, і ў 1395 ён быў вымушаны адмовіцца ад Кіеўскага княства. Як кампенсацыю атрымаў значнае Капыльскае (Слуцкае) княства. Удзельнічаў у заключэнні *Салінскага дагавора 1398* з крыжакамі. Меў сыноў Аляксандра (Алельку) — родапачынальніка князёў *Алелькавічаў* (Слуцкіх), Івана — родапачынальніка князёў *Бельскіх* і *Андрэя Уладзіміравіча*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Уладзімір Васількавіч** (у хрышчэнні Іаан; ?—10.12.1289), князь уладзіміра-валынскі. Сын уладзіміра-валынскага кн. Васількі Раманавіча. Пасля смерці бацькі (1269 або 1271) атрымаў паўн.-зах. Валынь з г. Уладзімір і Берасце. У.В. вёў паспяховую барацьбу з літ. і яцвяжскімі князямі. У 1273 ваяваў з яцвягамі і прымусіў іх князёў заключыць мір. У 1275 прыняў удзел у вял. паходзе галіцкага кн. Льва Данілавіча супраць вял. князя ВКЛ Трайдзеня. Пад Навагародкам У.В. даведаўся, што без яго ведама Леў Данілавіч з татарамі захапіў вакольны горад Навагародка, і таму вярнуўся ва Уладзімір. У 1276 разам з Львом Данілавічам захапіў Слонім і Турыйск з вакольнымі сёламі і пасля гэтага заключыў з Трайдзенем мір. У тым жа годзе заклаў г. Камянец з вежай як заслону ад нападаў літоўцаў. У 1277 татарскі хан Нагай паслаў да яго войска супраць Літвы. Даведаўшыся ў Берасці, што татары ўжо ў Навагародку, У.В. рушыў на Гародню, захапіў вежу перад гар. брамай і заключыў з гарадзенцамі мір. У 1279 на просьбу яцвяжскіх князёў паслаў ім з Берасця па Бугу караван жыта. З-за таго, што караван быў абрабаваны, У.В. пачаў вайну з мазавецкім кн. Конрадам і разбіў яго. У 1281 новая вайна з Конрадам скончылася для У.В. няўдачай. На наступны год арганізаваў паспяховы ваенны паход з Берасця на мазавецкага кн. Баляслава. Саюзнікамі У.В. выступілі літоўцы, якіх ён паслаў на кракаўскага кн. Лешку. Неўзабаве быў арганізаваны яшчэ адзін паход супраць Баляслава. У 1286 У.В. удзельнічаў у нападзе на Польшчу татар на чале з ханам Целебугам. У.В. вёў шырокае будаўніцтва, забяспечыў Берасце новымі ўмацаваннямі («зруби Берестии, ... сзда столп камен высотою яко и каменецкыи»), збудаваў у горадзе царкву св. Пятра. Па словах летапісца, быў «кніжнік вялікі і філосаф».

*Літ.*: Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

***Валерый Пазднякоў.***

**Уладзіміра-Берасцейская грэка-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка уніяцкай царквы. Створаны на аснове *Уладзіміра-Берасцейскай праваслаўнай епархіі* ў выніку заключэння *Берасцейскай уніі 1596*. У 18 ст. ў епархіі існавала пасада дапаможнага епіскапа берасцейскага, які кіраваў паўн. часткай епархіі (гл. *Берасцейская грэка-каталіцкая епархія*). У 1772 плошча У.-Б.г-к.е. каля 30 тыс. км², 18 дэканатаў, 489 прыходаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэрыторыя епархіі падзелена паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, а сама яна скасавана.

**Уладзіміра-Берасцейская праваслаўная епархія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Створана адразу пасля хрышчэння Русі (канец 10 ст.), уваходзіла ў *Кіеўскую праваслаўную мітраполію*. Ахоплівала землі Валыні, Падляшша, Берасцейскі пав. У 14 ст. ўваходзіла ў *Галіцкую праваслаўную мітраполію*. Кафедральныя цэрквы епархіі — Успенскі сабор ва Уладзіміры і сабор св. Мікалая ў Берасці. На тэрыторыі епархіі знаходзіліся манастыры ва Уладзіміры, Дарагічыне, *Зімнаўскі Успенскі манастыр, Кобрынскі Спаскі манастыр, Берасцейскі Сімяонаўскі манастыр*, Мілецкі Мікольскі, Заблудаўскі Успенскі і інш. манастыры. У 1588 пры падтрымцы кн. К.В.Астрожскага ва Уладзіміры створана славяна-грэчаская школа, якая ўтрымлівалася на сродкі епархіі. У.-Б.п.е. была самай заможнай пасля мітрапаліцкай. Яе епіскапам належалі некалькі мястэчак, самая вял. юрыдыка ва Уладзіміры і больш за 30 вёсак, у т.л. Уладзімірскі ключ з 16 вёскамі і Купічаўскі ключ з 11 вёскамі (1570). Уладзімірскім і берасцейскім епіскапам належала вядучая роля ў рэалізацыі царкоўнай *Берасцейскай уніі 1596*. Епіскап Іпацій *Пацей* быў адным з яе ініцыятараў, пасля стаў уніяцкім мітрапалітам кіеўскім. У выніку заключэння уніі епархія стала уніяцкай (гл. *Уладзіміра-Берасцейская грэка-каталіцкая епархія*). Пры аднаўленні правасл. іерархіі ў 1620 уладзімірскім і берасцейскім епіскапам стаў Іосіф Курцэвіч, аднак пасля яго ад'езду ў Расію ў 1625 епархія больш не мела правасл. епіскапа і справамі яе правасл. насельніцтва займаліся луцкія епіскапы.

***Віктар Атаманенка.***

**Уладзіміраў** (Владимиров, Владимировас, Vladimirovas) Леў Іванавіч (11.3.1912—20.2.1999), літоўскі гісторык кнігі. Канд. гіст. навук (1965), праф. (1980). У 1964—70 дырэктар бібліятэкі ААН. З 1973 заг. кафедры Вільнюскага ун-та. Працы ў розных галінах гісторыі культуры, па агульнай тэорыі кнігазнаўства, бібліятэчнай справе, жыццю і дзейнасці Ф.Скарыны.

*Тв.*: Pranciškus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas. Vilnius, 1956; Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский. Вильнюс, 1975; Издательская деятельность Франциска Скорины в Великом княжестве Литовском // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Knygos istorija: Senovė.

Viduramóiai. Renesansas. XVI—XVII amóiai. Vilnius, 1979; Издания и переводы Библии в идеологической борьбе в Великом княжестве Литовском // Федоровские чтения 1981. М., 1985; Всеобщая история книги: Древний мир. Средневековье. Возрождение. XVII век. М., 1988.

*Літ.*: Gudaitis V., Rakutis R. Levas Vladimirovas: Literatūros rodyklė. Vilnius, 1982.

**Уладзіміраў** (Владимиров) Пётр Уладзіміравіч [19(31).12.1854, г. Казань—пасля 1913], расійскі філолаг-славіст і гісторык літаратуры. Д-р рус. славеснасці (1888). Скончыў Казанскі ун-т. З канца 1880-х г. праф. Кіеўскага ун-та. Аўтар кніг і артыкулаў, прысвечаных стараж.-славянскім літаратурам. Адзін з заснавальнікаў беларусазнаўства. Праблемам стараж.-бел. літаратуры і гісторыі старабел. мовы прысвяціў працы «Жыціе св. Аляксея, Чалавека Божага ў заходнярускім перакладзе канца XVI ст.» (1887), «Агляд паўднёварускіх і заходнярускіх помнікаў пісьменнасці ад XI да XVII ст.» (1890) і інш. У сваёй асн. працы «Доктар Францыск Скарына: Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (1888) разглядаў пытанні, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Ф.Скарыны. Тэзісы да працы (выдадзены асобна) пра лінгватэкссталагічныя аспекты дзейнасці Скарыны і суадносіны яго перакладаў і іншамоўных тагачасных выданняў (напр., чэшскай Бібліі, 1506) не страцілі навук. каштоўнасці да нашага часу. У. выявіў новыя дакументы пра Скарыну, даволі поўна аднавіў яго біяграфію, прааналізаваў выданні, адзначыў іх асаблівасці, наватарства і значэнне для бел. і ўсх.-слав. культур. Даследаваў мову выданняў Скарыны, якую лічыў узорам бел. мовы пач. 16 ст., а таксама іншамоўныя лінгвістычныя запазычанні, шрыфты выданняў.

*Тв.*: К исследованию о «Великом зерцале». Казань, 1885; Введение в историю русской словесности. Киев, 1896; Научное изучение апокрифов — отреченных книг в русской литературе во второй половине XIX ст. Киев, 1900; Древняя русская литература Киевского периода XI—XIII вв., Киев, 1900.

*Літ.*: Мезиер А.В. Русская словесность с XI до XIX столетия включительно: Библиогр. указ. ... Ч. 1—2. СПб., 1899—1902; Немировский Е.Л. По следам Франциска Скорины: Док. повесть. Мн., 1990.

***Юрый Лабынцаў.***

**Уладзімір-Валынскі** (Володимир-Волинський), горад на Украіне, цэнтр Уладзімір-Валынскага р-на, гл. *Уладзімір.*

**Уладзімірская рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Ініцыятарам яе заснавання выступіў польскі кароль *Казімір III*, які імкнуўся замацавацца на Валыні. У 1358 вядомы ўладзімірскі біскуп Пётр. Пасля яго смерці Казімір III прасіў рымскага папу прызначыць новага біскупа. Супраць У.р.-к.е. выступілі любускія біскупы, якія прэтэндавалі на духоўную ўладу над Руссю. З 1375 У.р.-к.е. ў складзе *Галіцкай рымска-каталіцкай мітраполіі.* У 1428 кафедра У.р.-к.е. перанесена з Уладзіміра ў Луцк (гл. *Луцкая рымска-каталіцкая епархія*).

**Уладзімірскі-Буданаў** (Владимирский-Буданов) Міхаіл Флягонтавіч (1838, с. Бараздзіно Вянёўскага пав.—7.4.1916), расійскі гісторык права. Д-р гіст. н. (1874), праф. (1875). Скончыў Тульскую духоўную семінарыю (1857) і Кіеўскі ун-т (1864). У 1869—74 выкладаў гісторыю рус. права ў Дзямідаўскім ліцэі ў Яраслаўлі, з 1875 у Кіеўскім ун-це. З 1882 гал. рэдактар кіеўскай Часовай камісіі для разбору стараж. актаў, з 1887 старшыня Гіст. таварыства Нестара-летапісца. Вывучаў гісторыю права Расіі, Украіны, Беларусі, Літвы і Польшчы. Аўтар прац «Нямецкае права ў Польшчы і Літве» (1868), «Насельніцтва паўднёва-заходняй Расіі ад паловы XIII да паловы XVII ст.» (1886), «Маёнткі Літоўскай дзяржавы» (1889), «Агляд гісторыі рускага права» (1886, 7 выд. 1915) і інш.

*Літ.*: Сборник статей по истории права, посвященный М.Ф.Владимирскому-Буданову. Киев, 1904; Биографический словарь профессоров и преподавателей Императорского университета св. Владимира (1834—1884). Киев, 1884; Михальченко С.И. Киевская школа в российской историографии. М.; Брянск, 1997.

***Дзмітрый Караў.***

**Уладзіслаў II Ягайла**, гл. *Ягайла.*

**Уладзіслаў IV** Ваза (у ВКЛ Уладзіслаў II; 9.6.1565, в. Лобзаў каля Кракава, Польшча—20.5.1648), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1632—48], тытулярны цар маскоўскі і ўсяе Русі [1610—34], тытулярны кароль шведскі



**Уладзіслаў IV**. Мастак П.Рубенс. Каля 1624.

[1632—48]. Сын караля польскага і вял. князя літоўскага *Жыгімонта III* Вазы. У пачатку *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* у час распаду Тушынскага лагера і ўцёкаў з яго Лжэдзмітрыя II у Калугу баяры і дваране-тушынцы на чале з патрыярхам Філарэтам прапанавалі на царскі трон У. IV з умовай, што ён прыме праваслаўе. 4(14).2.1610 дэлегацыя тушынцаў у лагеры пад Смаленскам падпісала з каралём Жыгімонтам III дагавор: кароль адпускаў сына ў Маскву на царства, а пануючае становішча ў Расіі захоўвалася за баярамі і дваранамі; рас. купцы атрымалі права свабоднага гандлю за мяжой, у т.л. ў Рэчы Паспалітай. У ліп. 1610 цар Васіль Шуйскі быў скінуты з трона. Новы маскоўскі ўрад — «сямібаяршчына» — пад пагрозай захопу Масквы Лжэдзмітрыем II у жн. 1610 заключыў дагавор з гетманам С.*Жалкеўскім* аб абранні У. IV царом. Жыхары Масквы і інш. гарадоў прынялі прысягу на вернасць новаму цару. Жыгімонт III не адпусціў у Маскву 15-гадовага сына, але маскоўскі ўрад кіраваў дзяржавай ад імя У. IV. Пасля вызвалення Масквы восенню 1612 войскамі 2-га апалчэння У. IV быў дэтранізаваны, і ў лют. 1613 земскі сабор абраў царом Міхаіла Раманава. У 1617—18 У. IV узначаліў паход на Маскву, аднак авалодаць горадам не здолеў. Згодна з *Дэулінскім перамір'ем 1618* каралевіч захаваў тытул цара, але Міхаіл Раманаў застаўся на троне. У



наступныя гады У. IV удзельнічаў у войнах Рэчы Паспалітай з Турцыяй (1621) і Швецыяй (1626—29). Пасля смерці Жыгімонта III на элекцыйным сойме 8.11.1632 У. IV абраны каралём польскім і вял. князем літоўскім. У час міжкаралеўя пачалася *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. 30.8.1633 да аблажанага расійцамі Смаленска на чале арміі падышоў У. IV. Маскоўскае войска было акружана і капітулявала. *Палянаўскі мір 1634* замацаваў Смаленскае ваяв. ў складзе ВКЛ, аднак У. IV адмовіўся ад тытула цара. У час свайго панавання У. IV праводзіў знешнюю палітыку, скіраваную на забеспячэнне інтарэсаў сваёй дынастыі, а не дзяржавы. Пачалі праяўляцца яго супярэчнасці з магнатамі (асабліва на Украіне), якія сталі моцнай апазіцыяй каралю. У. IV праводзіў талерантную палітыку ў дачыненні да правасл. царквы Рэчы Паспалітай. У 1632 легалізаваў правасл. іерархію на чале з кіеўскім мітрапалітам. У той жа час казацкія паўстанні на Украіне жорстка падаўляліся. Перыяд 1638—48, калі паўстанняў не было, называўся гадамі «залатога спакою». У. IV, як і бацька, імкнуўся авалодаць шведскім тронам, таму ў час Трыццацігадовай вайны 1618—48 падтрымліваў непапулярны сярод шляхты саюз з германскім імператарам. У канцы жыцця У. IV задумаў план вял. вайны з Турцыяй у саюзе з Венецыяй і казакамі, але вымушаны ад яго адмовіцца і па патрабаванні сойма распусціць сабраныя без дазволу войскі. Незадаволенасць казакоў гэтым прыспешыла надыход антыфеад. і нац.-вызваленчай вайны на Украіне. Смерць У. IV супала з пачаткам вял. крызісу Рэчы Паспалітай. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 20, 139.

*Літ.*: Czapliński W. Władysław IV i jego czasy. 2 wyd. Warszawa, 1976; Яго ж. Władysław IV // Poczet krolów i książąt polskich. 2 wyd. Warszawa, 1980; Грыцкевіч А. Уладзіслаў Ваза // Культура. 1992. 21 снеж.; Яго ж. Уладзіслаў Ваза // Скрыжалі «Спадчыны». Мн., 1996; Wisner H. Władysław IV Waza. Wrocław etc., 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**уланы** (ад цюрк. oglan хлопец, маладзец), прадстаўнікі знаці *Залатой Арды*, якія вялі свой радавод ад нашчадкаў Чынгіс-хана, што не атрымалі трон. Сярод *татар* ВКЛ першымі У. былі князі Асанчуковічы; яны паходзілі ад аднаго, відаць, з прамых нашчадкаў Джучы-хана, кн. Асанчука (1-я пал. 15 ст.), які атрымаў даннікаў у в. Засулле Менскага пав. У пач. 16 ст. родныя Асанчуковічаў валодалі улусамі ў Крыме. У. ў ВКЛ складалі асобную харугву, якая ў 1631 налічвала 179 дымоў, у т.л. 62 у Ашмянскім, 61 у Гарадзенскім і 44 у Віленскім пав., астатнія 13 дымоў — у Лідскім, Мазырскім, Менскім, Навагародскім і Троцкім пав. У 16—18 ст. У. ў ВКЛ разгалінаваліся на некалькі родаў і ўзялі прозвішчы *Карыцкія*, Малюшыцкія, Паланскія, Засульскія, Ластайскія (2 апошнія роды ў 16—17 ст. зніклі). У ВКЛ У. валодалі маёнткамі, вызваляліся ад падаткаў, неслі вайсковую службу ў конніцы, мелі многія правы шляхты. З 2-й пал. 17 ст. племянныя адрозненні ў татар ВКЛ паступова зніклі і У. перасталі істотна вылучацца сярод інш. ваенна-служылых родаў, захаваўшы слова «У.» толькі ў асобных выпадках у прозвішчах (напр., Малюшыцкія-У.).

***Ібрагім Канапацкі.***

**Улашчык** Мікалай Мікалаевіч [1(14).2.1906, в. Віцкаўшчына Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н— 14.11.1986], беларускі гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар. Д-р гіст. навук (1964). Скончыў БДУ (1929). У 1924—30 працаваў у Бел. дзярж. б-цы і сакратарам Кніжнай палаты БССР. У 1930 арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі», у 1931 высланы на 5 гадоў у г. Налінск Вяцкай вобл., у 1933 асуджаны паўторна, этапіраваны ў Марыінскі папраўча-працоўны лагер (Новасібірская вобл.), пасля ў пас. Суслава Кемераўскай вобл. Вызвалены ў 1935 без дазволу вяртання ў Беларусь, працаваў выкладчыкам гісторыі і геаграфіі ў розных рас. школах і тэхнікумах. З 1939 у Ленінградзе, настаўнічаў. У 1941 арыштаваны і высланы ў г. Златавуст Чэлябінскай вобл. У 1942 вызвалены, займаўся вывучэннем аграрнай гісторыі Беларусі і Літвы 19 ст. У 1948 выкладаў у Маскоўскім ун-це. У 1949 звольнены з працы, у 1951 этапіраваны ў Сібірскі лагер пас. Суслава. Вызвалены ў 1955, вярнуўся ў Маскву, дзе да 1986 працаваў навук. супрацоўнікам Ін-та гісторыі АН СССР.

Гал кірункі даследаванняў У. — праблемы аграрнай гісторыі, крыніцазнаўства, археаграфіі Беларусі, летапісанне. У «Нарысах па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» (1973) прааналізаваў актавы матэрыял па гісторыі Беларусі, часткова Літвы і Украіны паводле археаграфічных публікацый за 1824—1940. 2-я частка гэтага твора, выдадзеная пасмяротна пад назвай «Працы па археалогіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі» (укладальнікі Я.М.Кісялёва, В.У.Скалабан, 1999), прысвечана крытычнаму разгляду зборнікаў дакументаў па гісторыі Беларусі 17—1-й пал. 19 ст., па рус.-бел. сувязях 16—17 ст., выданняў Ін-та літаратуры АН БССР, крыніцазнаўчых матэрыялаў па бел. літаратуры 19 ст. і інш. Упершыню пераклаў на рус. мову і падрыхтаваў да выдання «Хроніку Быхаўца» (1966), складальнік і рэдактар 32-га (1975) і 35-га (1980) тамоў бел.-літ. летапісаў у серыі «Поўны збор рускіх летапісаў». Адшукаў і апісаў Ленінградскі і Краснаярскі спісы «Хронікі літоўскай і жамойцкай». Сістэматызацыя, навук. каментарыі, гістарыяграфічны і археаграфічны аналіз летапісаў вызначаюцца грунтоўнасцю меркаванняў і аб'ектыўнасцю. Навук. значнасць маюць і гіпатэтычныя меркаванні У. пра дзяржаўна-кансалідуючую ролю стараж. Навагародка, мажлівае летапісанне ў ім, пра 15 страчаных «рускіх» (беларускіх) летапісаў, выкарыстаных у «Хроніцы» М.Стрыйкоўскага, і інш.

*Тв.*: Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Краязнаўства: Нататкі пра бадзянні ў 1924—1929 гг.: З рукапіснай спадчыны. Мн., 1999; Мемуары і дзённікі як крыніцы па гісторыі Беларусі: З рукапіснай спадчыны. Мн., 2000; Выбранае. Мн., 2001.

*Літ.*: Буганов В.И. Н.Н.Улащик — источниковед и археограф // Источниковедение отечественной истории, 1975. М., 1976; Ялугин Э. Только камни. Мн., 1989; Беларускі гістарычны агляд 1996. Т. 3, сш. 1. (нумар прысвечаны У.); Русь—Литва—Беларусь: Пробл. нац. самосознания в историогр. и культурологии: По материалам междунар. науч. конф., посвящ. 90-летию со дня рождения Н.Н.Улащика. М., 1997; М.М.Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі: (да 90-х угодкаў вучонага). Мн., 1997; М.М.Улашчык: Біябібліягр. паказ. Мн., 1996.

***Аляксей Каўка.***

**Улы аблога 1568.** Адбылася 20 жн. ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Кіраўніком аперацыі быў спраўца польнага гетмана ВКЛ Р.Ф.*Сангушка*. У яго распараджэнні знаходзілася каля 1,5 тыс. жаўнераў. Маскоўскі гарнізон *Ульскага замка* складаўся з 800 стральцоў з ручніцамі, у замку знаходзілася 27 гармат. Штуршком для пачатку дзеяння паслужыла інфармацыя ад шпегаў, што частка маскоўскага гарнізона пакінула замак. Разведка, аднак, зрабіла памылку, не заўважыўшы таго, што на змену ва Улу прыйшоў новы атрад маскоўскіх стральцоў. Літвінам удалося без шуму падступіць да сцен замка. Штурм пачалі з полацкага боку пешыя роты Тарноўскага і Рачкоўскага. З інш. боку казакі з рот Бірулі, Аскеркі і Мінкі, праклаўшы праз лес дарогу для коннікаў, падпалілі замак і пачалі секчы браму. Нягледзячы на нечаканасць аблогі, маскоўскае войска аказала ўпартае супраціўленне. Пералом у змаганні адбыўся пасля пераходу роты М.Салагуба цераз р. Ула. Гэта стала поўнай нечаканасцю для абаронцаў. Выяўленне броду дазволіла абкружыць крэпасць. Неўзабаве націск, учынены падышоўшымі коннымі ротамі Р.Войны, Ю.Тышкевіча і Б.Лукомскага, канчаткова вырашыў ход справы на карысць літвінаў. У палон былі ўзяты 300 чал. знатнага паходжання, у т.л. ваяводы браты Вельямінавы. Крэпасць амаль поўнасцю згарэла. Не ўдалося выратаваць ад агню вял. колькасць амуніцыі, зброі і харчовых запасаў. Узяцце Улы было значнай ваеннай падзеяй на 1-м этапе вайны. Дзякуючы ёй літвіны змаглі палепшыць свае пазіцыі на полацкім тэатры вайны, знізіць ступень пагрозы для Віцебска.

***Андрэй Янушкевіч.***

**Ульская бітва 1564**, гл. *Бітва на Уле 1564*.

**Ульскі замак.** Існаваў у 16—17 ст. у г. *Ула*. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* для абароны вусця Улы і кантролю за рухам па Дзвіне вял. кн. Жыгімонт II Аўгуст загадаў у 1563 узвесці тут замак. Мысавую пляцоўку адрэзалі ровам ад плато, па перыметры ўзвялі абарончы вал, а схілы замчышча, звернутыя да вады, выбрукавалі валунамі. Але будаўніцтва замка, якім кіраваў венецыянскі інжынер, спынілася ў сувязі з нападам атрада рас. войск. Уся будаўнічая каманда была перабіта. У 1567 Іван IV Грозны загадаў пабудаваць тут крэпасць у выглядзе драўляных сцен-гародняў і вежаў. Запоўненыя зямлёй гародні добра вытрымлівалі артылерыйскі абстрэл. У.з. меў 8 вежаў, вароты і брамкі. З сярэдзіны лютага да 4.3.1568 замкавыя ўмацаванні беспаспяхова штурмавала войска Я.Хадкевіча. Разбіўшы гарматамі сцены і вежы, яно, аднак, адступіла. Толькі 20.8.1568 Р.Ф.Сангушка прыступам захапіў У.з. (гл. *Улы аблога 1568*). Спалены ў час штурму замак хутка зноў быў адноўлены. Паводле загаду Стафана Баторыя ў 1580 тут насыпалі магутны вал вышынёй каля 11,5 м. У пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* У.з. зноў быў заняты рас. войскамі, спалены і больш не аднаўляўся. Іл. гл. ў т. 1, с. 671.



**Ульскі замак**. Гравюра са зборніка карт «Tabulae glographicae». Венецыя. 2-я пал. 16 ст.

***Міхась Ткачоў.***

**Ульяна Аляксандраўна** (?—вясна 1392), вялікая княгіня літоўская, другая жонка *Альгерда*. Дачка вял. князя цвярскога Аляксандра Міхайлавіча (1300—39). Пасля смерці бацькі выхоўвалася пры двары маскоўскага вял. князя Сямёна Іванавіча, які быў жанаты на яе сястры. У 1349/50 або 1350/51 Альгерд накіраваў паслоў да Сямёна Іванавіча прасіць рукі У.А. Пасля рады з мітрапалітам Феагностам Сямён Іванавіч даў згоду, разлічваючы ўплываць на палітыку ВКЛ і ўскосна кантраляваць Цвярское вял. княства. Мяркуецца, што У.А. падтрымала свайго брата Міхаіла, калі той у 1368 збег у ВКЛ пасля нападу на Цвер маскоўскага вял. князя Дзмітрыя Іванавіча. Альгерд выступіў на баку Міхаіла, і пачалася *вайна Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72*. У шлюбе з Альгердам У.А. нарадзіла сыноў Ягайлу, Скіргайлу, Свідрыгайлу, Карыбута, Карыгайлу, Лугвена, Мінігайлу. Пасля смерці мужа і заняцця трона Ягайлам (1377) У.А. атрымала як удовіна забеспячэнне Віцебскае княства. Вяла перагаворы з маскоўскім вял. князем Дзмітрыем Іванавічам аб жаніцьбе яго дачкі з Ягайлам і прыняцці Літвой праваслаўя. Гэты план не быў ажыццёўлены, пасля была заключана *Крэўская унія 1385*, якая прадугледжвала хрышчэнне Літвы паводле каталіцкага абраду. У ВКЛ У.А. падтрымлівала правасл. царкву, рабіла наданні цэрквам і манастырам.

***Валерый Пазднякоў.***



Укладны запіс княгіні **Ульяны** Аляксандраўны ў Евангеллі 13—14 ст.

**універсал** (ад лац. universalis усеагульны), від прававога акта ў Рэчы Паспалітай. Выдаваўся каралём як зварот да народа; у ім кароль разглядаў гаспадарчыя, рэліг. і вайсковыя пытан-



ні, склікаў шляхты на соймы, соймікі і паспалітае рушэнне. У час міжкаралеўя У. выдаваў *прымас*. У. п а б а р о в ы я — ухвалы соймаў на збіранне падаткаў, з 17 ст. выдаваліся друкам разам з соймавымі *канстытуцыямі*. У. *Пастаяннай Рады* рэгулявалі арганізацыю судаводства і адміністрацыі. У. абвяшчаліся *канфедэрацыі*. У час паўстання 1794 У. выдаваў Т.Касцюшка (напр., *Паланецкі універсал*).

**Уніхоўскія**, шляхецкі род герба «Астоя». Прозвішча ад маёнтка Уніхова ў Новагародскім ваяв. Першы вядомы прадстаўнік роду — Павел Якаўлевіч У. (1514—26.12.1593). Найб. вядомыя:

Р ы г о р (8.1.1549—1.4.1606), сын Паўла Якаўлевіча. Паборца Новагародскага ваяв. ў 1589.

Я н у ш, сын Паўла Якаўлевіча. Менскі харужы, падстолі з 1618.

М і х а л, сын Паўла Якаўлевіча. Харужы віцебскі, пасол на сойм 1626.

К р ы ш т о ф К а з і м і р (?—пасля 18.8.1657), сын Януша. Каралеўскі сакратар, інстыгатар ВКЛ з 1649.

С а м у э л ь К р ы ш т о ф П а ў л а в і ч, мазырскі суддзя гродскі ў 1643—49, войскі ў 1670—84, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1672, палкоўнік Новагародскага ваяв.

Р а м і я н, суддзя земскі брацлаўскі, падкаморы смаленскі.

А л я к с а н д р Ю з а ф М і х а й л а в і ч (? — 1722), суддзя земскі менскі з 1695, кашталян жамойцкі з 1709.

Б а г у с л а ў А л я к с а н д р (? — чэрв. 1697), пісар земскі новагародскі ў 1678—87, дэпутат Скарбовага трыбунала ВКЛ у 1683, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1687 і 1696, ваявода троцкі з 1689.

Ф р а н ц і ш а к (? — пасля 1794), менскі канюшы ў 1764, суддзя земскі з 1765, прэзідэнт земскі з 1773.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**унія дзяржаўная** (ад позналац. unio аб'яднанне, адзінства), аб'яднанне, саюз дзяржаў. Адрозніваюць асабістую (персанальную) У.д. — саюз дзяржаў пад уладай аднаго манарха пры захаванні імі пэўнай самастойнасці ва ўнутранай і знешняй палітыцы і рэальную У.д. — стварэнне на падставе дагавора або аднабаковага акта федэрацыйнай або канфедэрацыйнай дзяржавы з адзінымі органамі вышэйшай улады і кіравання, арміяй, унутранай і знешняй палітыкай. ВКЛ на працягу некалькіх стагоддзяў знаходзілася ва У.д. з Польскім каралеўствам. Упершыню пра дзярж. сувязь ВКЛ з Польшчай абвешчана актам вял. кн. літоўскага Ягайлы 14.8.1385 — *Крэўская унія 1385*. Ягайла шляхам жаніцьбы з польскай каралевай Ядвігай станавіўся каралём польскім і абяцаў «землі свае літоўскія і рускія да кароны Польскага каралеўства навечна далучыць». Але інкарпарацыя ВКЛ у Польскае каралеўства сустрэла моцнае супраціўдзеянне князёў і баярства ВКЛ. У выніку барацьбы за ўладу ў ВКЛ, якую вёў кн. Вітаўт, Ягайла быў вымушаны пайсці на падпісанне *Востраўскага пагаднення 1392* і прызначыць Вітаўта пажыццёвым каралеўскім намеснікам у вял. княстве, фактычным кіраўніком ВКЛ. Курс Вітаўта на аднаўленне поўнай самастойнасці дзяржавы знайшоў адлюстраванне ў *Салінскім дагаворы 1398* ВКЛ з Нямецкім ордэнам. Пасля паражэння ў бітве на Ворскле 1399 Вітаўт вымушаны аднавіць дзярж. саюз з Польшчай. Была заключана *Віленска-Радамская унія 1401*, якая садзейнічала перамозе ВКЛ і Польшчы над Нямецкім ордэнам у *Грунвальдскай бітве 1410*. Сувязь 2 дзяржаў была ўмацавана *Гарадзельскай уніяй 1413*. У акце Ягайлы ён тытулуецца вярхоўным князем ВКЛ, а Вітаўт — вял. князем ВКЛ; было паўторана палажэнне пра далучэнне (інкарпарацыю) Літвы. Статус ВКЛ як саюзнай Польшчы дзяржавы быў пацверджаны пры заключэнні *Гарадзенска-Троцкай уніі 1432—33* Ягайлам і новым вял. князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам, які вызначыўся як пажыццёвы няспадчынны манарх ВКЛ — васал польскай кароны. Персанальная У.д. ВКЛ і Польшчы як раўнапраўных дзяржаў заключана ў Берасці 17 і 19.9.1446. Паводле гэтага дагавора вял. князь літоўскі Казімір станавіўся польскім каралём, абвяшчалася: «Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае... у адной братняй уніі зліваем, злучаем і далучаем». Персанальная У.д. спыніла існаванне са смерцю Казіміра ў 1492 і абраннем на трон у Польшчы Яна Ольбрахта, а ў ВКЛ Аляксандра. Адноўлена са смерцю Яна Ольбрахта і абраннем Аляксандра на польскі прастол у 1501. На Пётркаўскім сойме 1501 паслы Польшчы і ВКЛ абмяняліся граматамі, дзе былі вызначаны новыя ўмовы У.д. Дзве дзяржавы меркавалася злучыць «у адно непадзельнае і без розніц цела, каб быў адзіны народ, адзіны люд, адзінае брацтва і супольныя рады, а цела то каб мела адну галаву, адзінага караля і адзінага пана». Умовы У.д. пацверджаны Аляксандрам пры заключэнні *Мельніцкай уніі 1501*, але яна не была санкцыянавана соймам ВКЛ і не набыла сілы. Злучэнне Польшчы і ВКЛ у адну дзяржаву прадугледжвала *Люблінская унія 1569*, калі была ўтворана *Рэч Паспалітая*. У 1655 частка шляхты ВКЛ спрабавала разарваць саюз з Польшчай і заключыць У.д. са Швецыяй (гл. *Кейданская унія 1655*), але Рэч Паспалітая пратрывала да яе падзелаў у канцы 18 ст.

*Літ.*: H a l e c k i O. Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1—2. Kraków, 1919—20; B a r d a c h J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970; Ю х о І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; W y r o z u m s k i J. Formowanie się politycznej i ustrojowej wspólnoty polsko-litewskiej w latach 1385—1501 // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1993. T. 45, z. 1—2.

***Валерый Пазднякоў.***

**унія царкоўная**, аб'яднанне 2 або некалькіх цэркваў на ўмовах прыняцця вяршэнства дагматыкі адной з іх пры захаванні іншымі своеасаблівасцей у абраднасці. У.ц. заключаліся пераважна рымска-каталіцкай царквой з праваслаўнай, а таксама са стараж. ўсходнімі (нехалкідонскімі) цэрквамі з мэтай падначаліць іх уладзе рымскіх пап. Пры гэтым сцвярджалася, што такім чынам аднаўляецца былое адзінства ўсяленскай хрысціянскай царквы. З 13 ст. візантыйскія імператары таксама імкнуліся пайсці на У.ц. з папствам, каб атрымаць ад яго дапамогу ў барацьбе супраць туркаў. Рымскія папы двойчы спрабавалі заключыць У.ц. з Канстанцінопальскім патрыярхатам: у 1274 была падпісана Ліёнская У.ц. (не падтрымана большасцю духавенства і народа Візантыі, асуджана Канстанцінопальскім саборам 1285), у 1439 — *Фларэнтыйская унія 1439* (адвергнута Іерусалімскім 1443 і наступнымі царк. саборамі; у ВКЛ і Маскоўскай дзяржаве яе беспаспяхова імкнуліся ўвесці

мітрапаліты *Ісідор* і *Грыгорый II* Балгарын). У 1596 рымска-каталіцкая царква падпісала з правасл. царквой Рэчы Паспалітай *Берасцейскую унію 1596*.

*Літ.*: Макарий (Булгаков М.П.). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996; Molnar I. Mniejszość religijna czy religia mniejszości? Grekokatolicy na ziemiach polskich i na Węgrach // Unia brzeska: geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich. Kraków, 1994.

***Юрый Бажэнаў, Антон Мірановіч.***

**Упіцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ у 16—18 ст. Цэнтр — г. *Панявеж*. Створаны ў ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 у складзе *Троцкага ваяводства.* Ахоплівaў землі ў ніжнім цячэнні рэк Нявежыс, Левуа, сярэднім цячэнні р. Муша з гарадамі і мястэчкамі Біржы, Лінкава, Пампяны, Пасваль, Рамігаль, Шадаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэр. У.п. ў складзе Рас. імперыі.

**урад,** 1) вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган дзяржаўнай улады, які ажыццяўляе непасрэднае кіраванне краінай. 2) У ВКЛ У. («вряд») — назва кіраўніцкага апарату і пасад у цэнтры і на месцах. У. былі земскія (дзярж.), прыдворныя, судовыя, прыватнаўласніцкія. Складаліся з пэўнага штату службоўцаў (*урадніκаў*), якія непасрэдна выконвалі функцыі дзярж. і гаспадарчага кіравання ў двары і маёнтках вял. князя, у ваяводствах, паветах, маёнтках магнатаў і інш. У Статуце ВКЛ 1588 тэрмін «У.» выкарыстоўваўся таксама ў сэнсе суд.

**урадніκ**, службовая асоба ва *ўрадах* ВКЛ. Існавалі У. земскія (дзяржаўныя) і прыдворныя. Земскія У. маглі быць цэнтральныя і мясцовыя, адміністрацыйныя і судовыя. Цэнтральныя У.: *абозныя* вялікі і польны, *віцэінстыгатар*, *войскі*, *генерал артылерыі*, *генерал-інспектар*, *гетманы* вялікі і польны, *інстыгатар*, *канцлер*, *лоўчы*, *маршалак* вялікі (земскі), *мастаўнічы*, *мернік*, *мечнік*, *падкаморы*, *падканцлер*, *падскарбі* вялікі (земскі), *пісары* вялікія, дэкрэтавы, польны і скарбовы, поштмагістр, *рэгенты* канцылярый вялікай і меншай, *рэферэндары* духоўны і свецкі, *сакратары* вялікія духоўны і свецкі, спіжарны, *стражнікі* вялікі і польны, *харужы* вялікі. Мясцовыя У.: *ваяводы*, *войскія*, *гараднічыя*, *кашталяны*, маршалкі, *мечнікі*, *падстолії*, *падчашыя*, *старасты*, *стольнікі*, харужыя, *чашнікі* і інш. Некаторыя пасады цэнтр. і мясц. У. былі ганаровымі — не звязанымі з выкананнем пэўных функцый. Да судовых У. адносіліся маршалак і дэпутаты *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага*, падкаморы, *суддзі*, *падсудкі*, *віжы*, *возныя*, *каморнікі* і інш. Прыдворнымі У. лічыліся маршалкі дворныя, падскарбі дворны, лоўчы дворны, *канюшы*, *кухмістар*, *крайчы*, *падканюшы*, *падстолі*, *піўнічы*, *стольнік*, *чашнік*. У асобных выпадках У. велікакняжацкага двара ажыццяўлялі і агульнадзярж. функцыі. Да 1569 пасады гал. цэнтральных У. (маршалкаў вялікага і дворных, гетмана вялікага, падскарбія земскага, канцлера, падканцлера), ваявод, кашталянаў, старасты жамойцкага давалі доступ у *Раду Вялікага княства Літоўскага*. З 1569 у *Сенат* Рэчы Паспалітай ад ВКЛ уваходзілі 5 вышэйшых У. — маршалкі вялікі і дворны, канцлер, падканцлер, падскарбі земскі, а таксама ўсе ваяводы, кашталяны і староста жамойцкі. Значныя пасады У., якія не ўваходзілі ў Сенат, называліся дыгнітарскімі (гл. *Дыгнітарыі*). У. прызначаліся або зацвярджаліся вял. князем (каралём), ваяводамі і старастамі з выбраных кандыдатаў. Як правіла, земскімі У. маглі быць толькі шляхціцы, якія мелі маёнткі ў тым павеце ці ваяводстве, дзе яны выбіраліся ці прызначаліся на пасаду. Пасады У. былі пажыццёвыя або да пераходу на больш высокую пасаду. Статут ВКЛ 1588 забараняў займаць некалькі адм. пасад або адначасова адм. і судовую. Але здаралася, што буйныя феадалы займалі і некалькі пасад. У гарадах У. былі *войты*, *радцы*, *лаўнікі*, *бурмістры* і інш. Звычайна пасады У. у гарадах былі выбарнымі. Парадак заняцця пасад у гарадах у асн. рэгуляваўся нормамі *магдэбургскага права*. Статут ВКЛ 1588 прадугледжваў павышаную адказнасць за злачынствы супраць У. пры выкананні імі службовых абавязкаў.

*Літ.*: Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1386—1795. Kraków, 1885; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku . T. 11. Urzędnicy centralny i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku: Spisy. Kórnik, 1994; Góralski Z. Urzędy i godności w dawnej Polsce. 2 wyd. Warszawa, 1998.

***Аляксандр Марыскін.***

**Урусаў** (Урусов) Сямён Андрэевіч (каля 1610—57), расійскі ваенны дзеяч. Князь, ваявода, крайчы пры цару Міхаіле Фёдаравічу, баярын з 1655. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* з сярэдзіны 1655 (пасля захопу Вільні) узначаліў войскі, якія павінны былі заняць зах. Беларусь. 2.11.1655 войска У. выйшла з Коўна, 9.11.1655 разбіла каля Белых Пяскоў частку палка Ж.Слушкі пад камандаваннем берасцейскага ваяводы Я.Кунцэвіча. З ім была заключана папярэдняя дамова пра пераход яго атрадаў са шляхты Лідскага, Гарадзенскага і Ваўкавыскага пав. на бок цара. Пасля гэтага меншая частка сіл У. праз Адэльск і Крынкі рушыла да Заблудава, а ён сам з большай часткай войска накіраваўся праз Нараў, Орлю, Высокае да Берасця. 23.11.1655 войска У. разбіла атрад вял. гетмана ВКЛ П.Я.Сапегі, што абараняў пераправу на р. Лясная, пераправіўся цераз раку, але пацярпеў паражэнне і быў вымушаны адысці. Сапега абышоў войска У. і заступіў яму дарогу на Вільню. У канцы ліст. 1655 адбылася бітва каля в. Вярховічы. Нягледзячы на поспех, У. быў вымушаны працягваць адступаць на Слонім і Вільню, у снеж. 1655 рушыў на Полацк. Пры яго вяртанні з Кунцэвічам былі падпісаны канчатковыя «артыкулы» са шляхтай зах. паветаў Беларусі, якая прызнала вяршэнства цара пры захаванні сваіх асн. прывілеяў.

**Урускі** (Uruski) Севярын (1.7.1817, г. Львоў—16.8.1890), польскі генеалог, геральдык, эканаміст. Граф. У 1853—59 маршалак шляхты Варшаўскай губ. Старшыня Герольдыі Каралеўства Польскага, чл. Дзярж. Савета Каралеўства Польскага. Аўтар прац па сял. пытанні. Разам з А.*Касінскім* склаў шматтомнае генеалагічнае выданне «Сям'я: Гербоўнік польскай шляхты» [«Rodzina: Herbarz szlachty polskiej», т. 1—14, Варшава, 1904—17; у 1931—38 А.Уладарскі выдаў т. 15 (да прозвішча Рышка) і 6 сшыткаў дадаткаў], значная частка якога прысвечана родам Беларусі і Літвы.

**Урэцкая шкляная мануфактура.** Існавала ў 1737—1846 у мяст. Урэчча



каля Слуцка (цяпер Любанскі р-н). Адна з першых мануфактур у Беларусі. Заснавала Г.К.*Радзівіл*. Напачатку называлася люстэркавай мануфактурай. Выпускала ліставое (аконнае) шкло, хрусталёвыя люстры, свечнікі, люстэркі, жырандолі, кандэлябры, люстраныя насценныя рэфлектары, посуд, дробную пластычную аздобу для посуду і люстраў з хрусталю, каляровага і бясколернага шкла. У 1841—44 працавалі 2 гуты: па вытворчасці люстраў (3 печы) і ліставога шкла і посуду (6 печаў), цэх па вырабе кафлі. Былі таксама паліравальня, рысавальня, ганчарня, сталярня, слясарня. Прадукцыя У.ш.м. вызначалася высокімі мастацкімі якасцямі. Вырабы аздабляліся граненнем «у брыльянт», «у карпавую луску», «у паскі», гравіроўкай, гарэльефнай разьбой, размалёўкай плацінай, золатам, серабром, фарбамі, упрыгожваліся накладнымі медальёнамі. Гравіраваныя кампазіцыі 1-й пал. 18 ст. — геральдычныя і фігуратыўныя, партрэтныя выявы каралёў і асоб княжацкіх родаў, у сярэдзіне 18—19 ст. — надпісы фальклорнага характару, геаметрычны і раслінны арнамент, букеты кветак, вінаградная лаза, сельскія і архітэктурныя пейзажы, выявы жывёл, міфалагічных і жанрава-бытавых сцэн. Кіравалі мануфатурай Т.Шэрбер (1741—65), які ўкараніў у вытворчасць узоры французскіх, багемскіх і англійскіх люстэркаў, І.Малевіч (1804—09). Працавалі дынастыі мясцовых майстроў Кахановічаў, Дубіцкіх, Бялькевічаў, Галубовічаў. Вырабы У.ш.м. зберагаюцца ў Эрмітажы (С.-Пецярбург), Дзярж. гіст. музеі (Масква), Музеі этнаграфіі і мастацкай прамысловасці (Львоў, Украіна), нац. музеях у Кракаве і Варшаве (Польшча). Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 81.

*Літ.*: Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст). Мн., 1977; Яе ж. Беларускае мастацкае шкло, XIX—пачатак XX ст. Мн., 1984; Kamieńska Z. Manufaktura szklana w Urzeczu, 1737—1846. Warszawa, 1964.

***Мая Яніцкая.***

**Уселюбскі Крыжаўзвіжанскі касцёл.** Пабудаваны ў гатычным стылі ў 1-й чвэрці 15 ст. ў в. Уселюб Новагародскага пав. (цяпер у Навагрудскім р-не) на сродкі канюшага вял. кн. Вітаўта і намесніка полацкага Яна Няміры (гл. ў арт. *Неміровічы*). У 16 ст. прыстасаваны пад кальвінскі збор, у 1642 вернуты каталікам. Асн. аб'ём амаль квадратнай у плане формы заканчваецца з У прэсбітэрыем і шматграннай апсідай. З паўн. і паўд. бакоў да прэсбітэрыя прымыкаюць сакрыстыя і рызніца. У цэнтры гал. фасада ўзвышаецца 3-ярусная вежа, выкананая ў неагатычным стылі. Агульныя памеры помніка 23,5 х 13 м. Храм накрыты 2-скатным дахам. Сцены ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне. Першапачаткова гэта было 1-слупавае збудаванне, заканчвалася з усх. боку прэсбітэрыем і 3-граннай апсідай. У паўн. сцяне прэсбітэрыя быў уваход у сакрыстыю, якая была перакрыта зорчатымі скляпеннямі. Аналагічныя скляпенні, напэўна, былі ў алтарнай частцы, а ў асн. аб'ёме — крыжовыя. Сцены храма ўмацаваны контрфорсамі. Інтэр'еры асвятляліся праз вокны спічастай формы. У тоўшчы зах. сцяны былі зроблены вінтавыя ўсходы, якія вялі на драўляныя хоры і паддашак. Усх. і зах. фасады завяршаліся франтонамі, напэўна, трохвугольнай формы. Над уваходам быў выкладзены з перапаленай цэглы крыж. У 2-й пал. 16 ст. скляпенні ў касцёле абваліліся. У 16—17 ст. была пабудавана верхняя частка апсіды, асн. аб'ём перакрыты драўлянай столлю, у прэсбітэрыі былі адноўлены скляпенні. У даху была выкарыстана пляскатая дахоўка. У канцы 18 ст. ў паўн. сцяне прабіта яшчэ адно акно, зменены форма і памеры першапачатковых вокнаў асн. аб'ёму, зроблены новы ўваход у сакрыстыю. У 18—1-й пал. 19 ст. ў цэнтры гал. фасада быў невял. бабінец. У 2-й пал. 19 ст. да гэтага фасада прыбудавана вежа. У 1968 пажарам знішчаны завяршэнні і вежы, дах і сістэма перакрыццяў асн. аб'ёма, прэсбітэрыя і сакрыстыі. Пасля пажару помнік не аднаўляўся. У 1988 храм перададзены вернікам, якія яго адрамантавалі. Уселюбскі касцёл — помнік гатычнай архітэктуры.

*Літ.*: Баравы Р. Невядомы помнік беларускай готыкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1987. № 2.; Кушнярэвіч А. Зноў пра помнік готыкі // Там жа. 1988. № 1; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993.; Боровой Р.В., Кушнеревич А.Н. Неизвестный памятник белорусской готики XV в. // Памятники культуры: Новые открытия, 1992. М., 1994.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**устава**, заканадаўчы акт у ВКЛ — канстытуцыя, статут, соймавая ўхвала і інш. У. называлі таксама пісьмовыя распараджэнні ваявод пра ўстанаўленне цэн на пэўныя харч. тавары, віно, прыправы і рамесныя вырабы, што ўвозіліся з-за мяжы. Гэтыя своеасаблівыя прэйскуранты выдаваліся ў кожным ваяводстве звычайна 2 разы на год, абвяшчаліся і вывешваліся на рынках, у інш. людных месцах. Купцы ці гандляры, якія завышалі вызначаныя цэны, караліся грашовым штрафам.

**«Устава на валокі» 1557**, адзін з галоўных дакументаў аграрнай рэформы 16 ст. — *валочнай памеры*. У гаспадарскіх (велікакняжацкіх) уладаннях памера пачалася ў шырокіх маштабах з 1551 у адпаведнасці з распараджэннем Жыгімонта II Аўгуста («паводле ўставы яго каралеўскай міласці ў Вялікім княстве Літоўскім 1551 г.»). Тэкст Уставы 1551 і інструкцый гаспадарскім мернікам пакуль не выяўлены. Таму аб правядзенні аграрнай рэформы ў гэты час мяркуюць толькі па ўскосных сведчаннях. Вядома, што напачатку валочнай памеры падлягалі тыя гаспадарскія землі, дзе здаўна існавалі *двары* — гаспадаркі, заснаваныя на працы прыгонных сялян, правобразы будучых *фальваркаў*. Пры яе правядзенні напачатку былі дапушчаны пэўныя парушэнні і недакладнасці, таму вял. князь быў вымушаны даць указанне аб праверцы (рэвізіі) правядзення памеры. Менавіта для рэвізораў у першую чаргу і была зацверджана 1.4. 1557 «У. на в.». У тым жа годзе і ў 1558 у яе ўнесены некаторыя папраўкі, і надалей яна стала інструкцыяй не толькі для рэвізораў, а і для ўпраўляючых гаспадарскімі ўладаннямі. Гэты дакумент вызначаў асн. мэты аграрнай рэформы, прадугледжваў шэраг захадаў тэхнічнага (перамер зямлі), сацыяльнага (змены ў становішчы феадальназалежнага насельніцтва), эканамічнага (стварэнне новых гаспадарак, змены ў сістэме падатковага абкладання) характару. Паводле ўставы выпраўляліся недахопы і памылкі папярэдняй памеры, уводзілася аднастайнасць яе правядзення на тэр. ўсяго ВКЛ. У якасці пазямельнай меры ўводзілася *валока* (21,36 га), яна ж станавілася і стандартнай адзінкай падатковага абкладання сялян. Адначасова перад рэвізорамі і

мернікамі ставілася задача пашырэння ранейшых і стварэння новых двароў (фальваркаў) як гаспадарак па вытворчасці таварнага збожжа, заснаваных на працы прыгонных сялян. Фальваркі ствараліся ў мясцовасцях з урадлівай глебай і зручных для вывазу збожжа за мяжу. Рэвізія памеры на падставе «У. на в.» скончана ў 1568. На тэр. Беларусі яна ахапіла ўсе гаспадарскія ўладанні, якія знаходзіліся ў Ашмянскім, Берасцейскім, Браслаўскім, Ваўкавыскім, Віленскім, Гарадзенскім, Лідскім, Менскім, Навагародскім, Пінскім і Слонімскім пав. Ва ўсх. валасцях рэформа пачала праводзіцца ў 1560 паводле інструкцыі, якая значна адрознівалася ад «У. на в.». Завяршылася аграрная рэформа ва ўсх. Беларусі ў 1630—40-я г.

Устава складаецца з 49 артыкулаў. 1—8-ы арт. вызначалі абавязкі людзей, якія выконвалі спец. службы вял. князю (путных баяр, стральцоў, асочнікаў, войтаў, лаўнікаў і інш.); 9—14-ы — статус дзярж. гарадоў; 15—19-ы — павіннасці з валокі і дадатковыя павіннасці і выплаты; 20—25-ы — парадак стварэння і функцыянавання фальваркаў; 26—28-ы — парадак збору падаткаў; 29—30-ы — правядзенне валочнай памеры; 31-ы — парадак збору дзесяціны на мясц. адміністрацыю; 32—34, 40, 48, 49-ы — функцыянаванне лясной гаспадаркі, карыстанне падданым насельніцтвам пушчамі, рэкамі і азёрамі; 35—38-ы — дадатковыя павіннасці сялян (падводную, падвоз каменю, будаўніцтва мастоў і інш.); 39-ы — надзяленне зямлёй і абавязкі рамеснікаў; 41—43-і —парадак задавальнення шкод і крыўд, пакарання злачынцаў; 44-ы — павіннасці на карысць Віленскага і Троцкага замкаў; 45-ы — становішча шляхты ў Жамойці; 46-ы — становішча «рускіх валасцей» (падняпроўскіх і падзвінскіх); 47-ы — становішча старастаў і дзяржаўцаў.

Аграрная рэформа ў дзярж. уладаннях, праведзеная паводле «У. на в.», дала пачатак перабудове сельскай гаспадаркі ВКЛ. Увядзенне валокі як аднастайнай адзінкі пазямельнай меры і абкладання павіннасцямі, дакладны і загадзя вызначаны яе памер сведчылі пра пераход эканомікі на новы ўзровень, спрыялі гасп. стабілізацыі дзяржавы. Паводле прыкладу гаспадара многія прыватныя і духоўныя землеўладальнікі пачалі праводзіць валочную памеру, ствараючы нават свае адмысловыя ўставы. Рэалізацыя палажэнняў «У. на в.» затармазіла дыферэнцыяцыю сялянства, стварыла прыкладна роўныя ўмовы для атрымання зямельнага надзелу і адбывання павіннасцей з яго. Дакладна вызначаныя павіннасці (у т.л. і раней уведзеныя), дастаткова роўны іх цяжар (2 дні паншчыны з валокі на тыдзень) не выклікалі значных пярэчанняў падданых. Закладзеныя ва ўставу эканам. ідэі спрыялі росту прыбыткаў класа феадалаў, а разам з тым стварылі ўмовы гаспадарчай стабільнасці і вызначанасці для феадальна-залежнага насельніцтва, спрыялі ўмацаванню эканомікі краіны ў цэлым.

*Публ.*: Русская историческая библиотека. Т. 30. Юрьев, 1914; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.

*Літ.*: Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мн., 1992; Яго ж. Вялікая аграрная рэформа XVI ст. // Спадчына. 1993. № 4; Улашчык М. Валочная памера // Бел. мінуўшчына. 1996. № 1; Спірыдонаў М.Ф. Аграрная рэформа сярэдзіны XVI ст. // Гісторыя сялянства Беларусі. Мн., 1997. Т. 1.

***Валянцін Голубеў.***

**Устралаў** (Устрялов) Мікалай Герасімавіч [4(16).5.1805, Малаархангельскі пав. Арлоўскай губ., Расія— 8(20).6.1870], расійскі гісторык. Чл. Пецярбургскай АН (1837), д-р рус. гісторыі (1836). Скончыў Пецярбургскі ун-т, у 1834—70 праф. гісторыі гэтага ун-та. Першы з рас. гісторыкаў адвёў значнае месца ў сваіх лекцыях гісторыі ВКЛ (Рус.-Літ. дзяржавы) як фактару рас. гісторыі. У 1830-я г. выдаў мемуарныя крыніцы 16—17 ст.: «Сказанні сучаснікаў пра Дзмітрыя Самазванца» (т. 1—5, 1831—34), «Сказанні князя Курбскага» (т. 1—2, 1833), якія значна закранаюць гісторыю ВКЛ, за што атрымаў 2 Дзямідаўскія прэміі. У пач. 1830-х г. зблізіўся з Ф.В.Булгарыным. У 1836 напісаў «Рускую гісторыю», дапоўненую ў 1842 «Гістарычным аглядам царавання гасудара імп. Мікалая І». Аўтар працы «Гісторыя царавання Пятра Вялікага» ў 10 тамах (выйшлі толькі т. 1—4, 6, 1858—59, 1863). У сваёй канцэпцыі рас. гісторыі У. блізкі да поглядаў М.М.Карамзіна, быў фактычна праваднíком тэорыі «афіцыйнай народнасці» ў гіст. навуцы. Публікацыі гіст. крыніц і багатая фактура прац У. захавалі вял. каштоўнасць да нашага часу.

*Тв.*: Воспоминания о моей жизни // Древняя и новая Россия. 1880. № 6.

*Літ.*: Иконников В.С. Н.С.Арцыбашев и Н.Г.Устрялов // Рус. архив. 1886. № 12; Сахаров А.М. Историография истории СССР: Досоветский период. М., 1978. С. 105—140.

***Дзмітрый Караў.***

**Усцюжскі летапісны звод**, летапіс агульнарускага характару. Створаны ў 1-й чвэрці 16 ст. ў г. Усцюг (цяпер г. Вял. Усцюг, Валагодская вобл., Расія). Паведамляе пра падзеі 852—канца 16 ст. У аснове ляжыць т.зв. агульнарус. летапісны звод 1494, мясцовыя летапісы і інш. Каштоўная крыніца па гісторыі войн ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай пач. 16 ст. Змяшчае найб. падрабязныя з усіх летапісных крыніц звесткі пра Смаленскі паход 1514, Аршанскую бітву 1514 і інш., магчыма, запісаныя са слоў усцюжаніна — непасрэднага ўдзельніка гэтых падзей ці ваеннапалоннага з ВКЛ.

*Публ.*: Устюжский летописный свод: (Архангелогородский летописец) / Подг. к печ. и ред. К.Н.Сербиной. М.; Л., 1950; Полное собрание русских летописей. Т. 37. Л., 1982.

*Літ.*: Сербина К.Н. Устюжский летописный свод // Ист. записки. М., 1946. Кн. 20.

***Алесь Белы.***

**Ушачы** (цяпер гарадскі пасёлак, цэнтр Ушацкага р-на), мястэчка ў Полацкім ваяв., на р. Ушача. Вядомы з 16 ст. як сяло, уладанне А.Сялявы, потым яго сыноў. З 1594 цэнтр воласці. У 1624 уладанне полацкага стольніка Ю.Кляноўскага. У 1667 маёнтак У. складаўся з 3 вёсак, меліся прыстань, царква, манастыр, карчма, праводзіліся 2 кірмашы на год. З 1672 уласнасць Д.Радзімінскага-Францкевіча, пабудаваны манастыр базыльян. У 17—18 ст. У. належалі Шчытам, Жабам, Плятэрам. У 1716 падваявода полацкі У.Жаба заснаваў касцёл і дамініканскі кляштар з гаспадарчымі пабудовамі, броварам, лазняй, шпіталем, школай. 23.6.1758 мястэчка У. атрымала магдэбургскае права і герб з выявай св. Лаўрэнція ў белым полі каля залатой ракі. З



1776 У. лічыліся цэнтрам Полацкага ваяв., большая частка якога ў 1772 адышла да Рас. імперыі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Валянціна Віталёва.*

**Уяздаўскі манетны двор**, часовы манетны двор ВКЛ у г. Уяздаў (Польшча). У 1660—61 біў медныя соліды караля Яна II Казіміра. Адначасова на тых жа вытворчых плошчах і з тым жа персаналам ва Уяздаве мясціўся манетны двор Польскага каралеўства (са сваёй адміністрацыяй), які ў 1660—61 і 1663—65 біў каронныя медныя соліды. Адчынены для выканання рашэння Варшаўскага сойма 1659 аб выпуску на 1 млн. злотых медных солідаў для ВКЛ пасля высвятлення немагчымасці размяшчэння манетнага двара ў Берасці з-за вайсковых падзей. Арандатарам двароў быў Т.Л.Бараціні. Літоўскія соліды У.м.д. маюць агульныя рысы з солідамі *Берасцейскага манетнага двара* (супадзенне адной з 2 форм «Пагоні» на манетах з Уяздава з гербам на берасцейскіх солідах, знакі інтэрпункцыі ў выглядзе кропак у пачатку і канцы легенды рэверса, размяшчэнне выявы герба адносна слоў кальцавой легенды), таксама прасочваецца сувязь каронных солідаў У.м.д. і літоўскіх солідаў Берасцейскага манетнага двара (знакі інтэрпункцыі ў выглядзе кропак у пачатку і канцы легенды рэверса). Пасля закрыцця кароннага У.м.д. ў 1665 тэхнічны персанал пераведзены ў Берасцейскі манетны двор.

*Літ.*: Janušonis S. 1660—1661 m. lietuviški šilingai // Mokslinės bibliotekos metraštis. Vilnius, 1973; Сінчук Й. Бэрысьтіјська мінныця в 1665—66 роках // Јітвјежа (поліська) штудијно-прахтыцька конфырэнцыя: Тэзы проказэј (13—14 априля 1990 р.). Пынськ, 1990.

*Іван Сінчук.*





**Фаліна** Барталамеа (1730, г. Венецыя, Італія—1809), польскі картограф італьянскага паходжання. З 1766 у Варшаве, выкладчык малявання ў Кадэцкім корпусе, з 1770 капітан корпуса кароннай артылерыі. У 1770 у варшаўскай друкарні М.Гроля выдаў «Генеральную і новую карту ўсёй Польшчы, Вялікага княства Літоўскага і суседніх краін» (маштаб каля 1:1 220 000).

*Літ.*: Buczek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII w. Warszawa, 1963; Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў. Мн., 2004.

***Леў Казлоў.***

**фальварак** (польск. folwark ад ням. Vorwerk хутар), від феадальнага зямельнага ўладання ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай: двор феадала з комплексам будынкаў і ўгоддзяў. Правобразамі Ф. у ВКЛ былі т.зв. *двары*, у т.л. гаспадарскія, прызначаныя для вытворчасці с.-г. прадукцыі, неабходнай для ўтрымання феад. адміністрацыі і на асабістыя патрэбы феадалаў. Стварэнне Ф. найперш было выклікана значным ростам попыту на збожжа ў краінах Зах. Еўропы ў канцы 15—пач. 16 ст. Каб скарыстаць спрыяльную сітуацыю і павялічыць вытворчасць збожжа, дзяржавай была распачата рэарганізацыя гаспадаркі, адной з яе састаўных частак стала пашырэнне старых двароў і стварэнне Ф. Умовы стварэння Ф. вял. кн. Жыгімонт II Аўгуст агаварыў ва *«Уставе на валокі» 1557*: «Фольварки хочем мети, абы везде становены, яко наболшы быти могуть пры каждых замках и дворех нашых, окром где бы кгрунты злые и непожыточные были». Паводле гэтага дакумента, Ф. уяўляў сабой феад. гаспадарку (панскі двор з жылымі і гаспадарчымі пабудовамі, ворыўныя і інш. ўгоддзі), заснаваную на працы прыгонных сялян і арыентаваную на вытворчасць збожжа на продаж. Пад Ф. звычайна адводзіліся лепшыя землі як па якасці глебы, так і па размяшчэнні (блізкія да буйных гарадоў і транспартных артэрый). Велічыні фальварковага і сял. ворыва суадносіліся як 1:7. Кожная сял. сям'я атрымлівала зямельны надзел памерам у *валоку* ці яе частку, з якой выконвала дакладна вызначаныя павіннасці. Найб. поўнае ўяўленне пра Ф. даюць *інвентары* — вопісы феад. уладанняў. Паводле іх, кожны Ф. акрамя ворнай зямлі меў агароды, сенажаці, выганы. Амаль ва ўсіх Ф. гадавалі свойскую жывёлу і птушку. У некаторых Ф. былі сады, сажалкі, млыны, рудні, кузні, цагельні, пякарні, бровары і інш. Ф. былі ў дзярж., прыватных і царк. уладаннях. У 16 ст. Ф. сталі асновай гаспадарання ў зах. і цэнтр. Беларусі (усх. Беларусь у час актыўнага правядзення агр. рэформы была ахоплена *Інфлянцкай вайной 1558—82*, і гал. павіннасцю дзярж. сялян тут была даніна для забеспячэння гарнізонаў і вайсковых падраздзяленняў). У выніку пераводу феад. гаспадаркі на фальваркова-паншчынную сістэму значна вырасла вытворчасць збожжа і ВКЛ стала адным з асн. яго пастаўшчыкоў у Зах. Еўропу. Значна выраслі даходы дзяржавы. М.В.Доўнар-Запольскі лічыў, што рост да сярэдзіны 17 ст. даходаў Берасцейскай і Кобрынскай эканомій амаль у 7 разоў быў выкліканы менавіта развіццём фальваркова-паншчыннай сістэмы. Яе заняпад у Беларусі адбыўся ў сувязі з войнамі сярэдзіны 17—пач. 18 ст., калі ў выніку страты значнай колькасці насельніцтва і цяглай жывёлы не было магчымасці для апрацоўкі значных абшараў панскага ворыва, і сяляне пераводзіліся на грашовую рэнту. Новае пашырэнне фальварковa-паншчыннай сістэмы адбылося ў сувязі з правядзеннем з 1765 *Тызенгаўза рэформы*. Фальваркова-паншчынная сістэма гаспадарання пачала знікаць спачатку ў дзярж. уладаннях з правядзеннем агр. рэформы П.Дз.Кісялёва ў 1830—50-х г., а канчаткова спыніла сваё існаванне пасля сял. рэформы 1861. Пасля гэтага тэрмін «Ф.» ужываўся ў асноўным у вузкім значэнні слова як назва паселішча — панскага двара з пабудовамі. Як назва феад. гаспадаркі слова «Ф.» у некат. выпадках выкарыстоўвалася як сінонім тэрміна «маёнтак», аднак гэта паняцце больш шырокае, у адным маёнтку магло быць некалькі Ф.

***Валянцін Голубеў.***

**фальканета** (італьян. falconetto), гармата калібру 45—100 мм, якая была на ўзбраенні ў арміях і флатах Еўропы ў 16—18 ст. Вага каля 250 кг. У 18 ст. ў некаторых арміях Ф. называлі палкавыя 45—55-мм гарматы. Стралялі свінцовымі ядрамі, перавозіліся 1—2 коньмі.

**Фальконіус** Тамаш (сапр. Крачатоўскі Хама; ?—пасля 1566), дзеяч кальвінісцкай царквы. Паводле «Запісак» Ф.*Еўлашоўскага*, у 1550-х г. займаў пасаду кальвінісцкага міністра (святара) у Клецку пасля С.Буднага, пазней пад уплывам Г.*Бляндраты* прыняў сацыніянства. Прымаў удзел у сінодах кальвінісцкім у Пінчаве (1563) і «польскіх братоў» у Бялжыцах (1569). У *Берасцейскай друкарні* М.Радзівіла Чорнага выдаў 2 кнігі каментарыяў да Новага Запавету: «Справы і словы Ісуса Хрыста, Сына Божага, на вечнае суцяшэнне выбраннікам Божым...» («Sprawy i słowa Jezusa Krystusa Syna Bożego ku wiecznej pociesze wybranym Bożym napisane przez świadki i pisarze na to od Boga zrządzone, a tu wykłady krótkimi są objaśnione», 1565), «Другая кніга святога Лукі, назва якой Гісторыі, або Справы апостальскія...» («Wtóre księgi Łukasza świętego, których napis jest Dzieje albo Sprawy Apostolskie, krótkimi wykłady objaśnione», 1566), якія зрабілі вял. уплыў на багаслоўскую думку ВКЛ. Фрагменты, якія каменціраваў Ф., паходзілі з *Берасцейскай Біблії*. Складаў рэліг. песні.

***Валерый Пазднякоў.***

**Фанвізін** (Фонвизин) Дзяніс Іванавіч [3(14).4.1744 ці 1745, Масква—1(12).12.1792], рускі пісьменнік. Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1761—62). Працаваў у замежнай калегіі. Дэбютаваў у 1761 як перакладчык. Сатырычна-крытычныя адносіны да прыгону выказаў у байцы «Лісіца-ліхадзей» (1762—63, апубл. 1769). У сац.-бытавой камедыі «Брыгадзір» (1769, апубл. 1786) высмеяў нізкапаклонства дваран перад французскай культурай. Найлепшы твор — сатырычная камедыя «Недарostак» (1781, апубл. 1783), у якой выкрываў прыгон, невуцтва дваран, сістэму выхавання. Выступаў за абмежаванне законамі самадзяржаўнай улады («Роздумы пра абавязковыя дзяржаўныя законы», нап. 1783), супраць палітыкі Кацярыны II («Пытанні аўтару «Быліц і небыліц», 1783). Упершыню Ф. наведаў Беларусь у 1777 праездам у Парыж. У лістах з дарогі апісаў Менск, Оршу, Стоўбцы, Мір, Слонім і інш. Яму належала в. Лісна (цяпер у Верхнядзвінскім р-не), дзе працаваў над апошняй сваёй камедыяй «Выбар гувернёра».

*Літ.*: Сцяпанаў С. Фанвізін на Беларусі // Беларусь. 1955. № 1; Шпадарук І. На зямлі беларускай... // Літаратура і мастацтва. 1975. 8 жн.; Букчин С. Судебное дело Дениса Фонвизина // Букчин С. ...Народ издревле нам родной. Мн., 1984; Рассадин С. Сатиры смелый властелин: Кн. о Д.И.Фонвизине. М., 1985.

***Сцяпан Лаўшук.***

**Фантана** (Fontana) Юзаф III (1700?—пасля 1755), італьянскі архітэктар. Прадстаўнік барока. Працаваў пераважна ў Гародні і Вільні. Пабудаваў царкву *Гарадзенскага манастыра Раства Багародзіцы* (1720—56), касцёл *Гарадзенскага кляштара кармелітаў босых* (1738), палац Сапегаў у Гародні (1741—44), царкву *Віцебскага Успенскага манастыра* (з 1743), касцёл *Глыбоцкага кляштара кармелітаў* (1735), склаў праект (1740) *Сталавіцкага касцёла* Іаана Хрысціцеля і інш.

**Фарсья дэ Піль** (Fortia de Piles) Альфонс Пусэн Жазеф (1758, г. Марсель, Францыя—1826), французскі пісьменнік. Граф. Служыў афіцэрам у каралеўскай арміі, быў губернатарам Марселя. У час рэвалюцыі і якабінскага тэрору эмігрыраваў, падарожнічаў па Германіі, Даніі, Швецыі, Расіі і Польшчы. У 1794 вярнуўся ў Францыю і выдаў (з П.М.Буажэленам дэ Кердзю) у Парыжы 5 тамоў апісання свайго падарожжа па Еўропе (1796). Вядомы як аўтар брашур паліт. зместу, літ. і музычных твораў, некалькіх опер. У час праезду з Расіі ў Польшчу (1792, разам з Буажэленам дэ Кердзю) ехаў праз Беларусь, са Смаленска праз Оршу, Талачын, Крупкі, Барысаў, Смалявічы, Менск, Гародню. Талачын здаўся яму «вялікай вёскай, якую называюць горадам»; дарога ад Смаленска да Талачына добрая, абсаджаная дрэвамі, далей — дрэнная. У Гародні адзначыў добры гасціны двор і дамы нямецкіх купцоў, якія атрымлівалі па Нёмане розныя замежныя тавары і прадавалі іх тут.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**фаска** (ад ням. Fass бочка), мера аб'ёму і масы ў Германіі і Рэчы Паспалітай. З 13 ст. гамбургская Ф. адпавядала 24,49 кг ячменю і аўса, 36,70 кг жыта, пшаніцы, гароху, 52,63 л алею. У Берасці ў 1605 малая Ф. адпавядала 22 камяням, у Варшаве Рускай (Веляшковічы каля Суража) у 1756 1 Ф. = 6 гарцаў = 6 шыфунтаў = 100 бунтаў = 1013,22 кг. У 1764 Ф. Рэчы Паспалітай вызначана як 0,241 варшаўскага карца (28,992 л). У 19 ст. польская Ф. = 0,125 карца = 4 гарцы = 16 квартаў = 15,0756 кг.

*Літ.*: Inhnatowicz I. Vademecum do badań nad historią XIX i XX wieku. T. 1. Warszawa, 1967; Szymański J. Nauki pomocnicze historii: Od schyłku IV do końca XVIII w. 2 wyd. Warszawa, 1976.

***Яўген Анішчанка.***

**фаянс** (франц. faïence ад назвы італьян. горада Фаэнца, дзе вырабляюць фаянс), керамічныя вырабы з глін



Да арт. **Фаянс**. Міскі і сподачкі Свержанскай мануфактуры. Сярэдзіна 18 ст. Раскопкі Дз.Каваленкі ў Нясвіжы.



Да арт. **Фаянс**. Фрагменты талерак вытворчасці мануфактур ВКЛ. Сярэдзіна 18 ст.

з нізкім утрыманнем вокісу жалеза, якія маюць светлы шчыльны дробнапорысты чарапок. Паверхню вырабаў звычайна пакрываюць празрыстай ці непразрыстай палівай, па якой часта наносяць малюнак. У 11—12 ст. на бел. землях Ф. быў прадметам імпарту з краін Усходу. У 17—18 ст. Ф. прывозілі з Зах. Еўропы. У ВКЛ вытворчасць Ф. пачалася з адкрыццём Г.К.*Радзівіл* мануфактуры ў г. *Белая*. На прадпрыемстве працавалі ў асноўным замежныя спецыялісты. У 1742 М.К.*Радзівіл* Рыбанька заснаваў *Свержанскую фаянсавую мануфактуру*, папярэдне паслаўшы мясц. ганчароў на навучанне ў Белую. У 1755 М.К.Радзівіл адчыніў фаянсавую мануфактуру ў Жоўкве на Украіне. Прадпрыемствы праіснавалі да сярэдзіны 1760-х г. У 1778—1830 дзейнічала *Целяханская фаянсавая мануфактура* М.К.Агінскага. Усе гэтыя прадпрыемствы выкарыстоўвалі мясц. гліны, а кампаненты для палівы і керамічных фарбаў імпартавалі з краін Зах. Еўропы. Вырабы фаянсавых мануфактур ВКЛ вядомы пераважна па археалагічных раскопках у гарадах і замках. Яны мелі чарапок крэмавага ці светла-ружовага колеру, уся паверхня пакрываліся белай эмаллю, па якой звычайна наносілі малюнак. Для расфарбоўкі выкарыстоўвалася вогнетрывалыя фарбы, асабліва папулярным быў кобальтавы малюнак. Асартымент прадукцыі быў вельмі разнастайны: кухонны і сталовы посуд, санітарна-гігіенічная кераміка, дэкаратыўная пластыка, пячная кафля, садоваваркавая дэкаратыўная кераміка. Афармлялі вырабы адпаведна тагачаснай модзе — у стылі барока і ракако, пазней — класіцызму (Целяханы).

*Літ.*: Przyrembel Z. Farfurnie polskie dawne i dzisiejsze. Lwów, 1936; Starzewska M., Jeżewska M. Polski fajans. Wrocław, 1978; Chojnacka H. Fajanse polskie XVIII—XIX wieku. Warszawa, 1981.

***Ірына Ганецкая.***

**феадальная вайна 1432—39**, дынастычная вайна ў ВКЛ за дзяржаўную ўладу паміж 2 прадстаўнікамі дынастыі Гедзімінавічаў — *Свідрыгайлам* Альгердавічам і *Жыгімонтам Кейстутавічам*. Пасля абвяшчэння 1.9.1432 вял. князем Жыгімонта, якога падтрымала пераважна літ. арыстакратыя, скінуты з трона Свідрыгайла ўцёк у Полацк. Уладу Жыгімонта прызнала Жамойць, Літва і больш цесна звязаныя з ёю Берасцейская і Менская землі, прынёманскія воласці, Падляшша, Полацкая, Віцебская, Смаленская, Ноўгарад-Северская і Кіеўская землі, Валынь і Падолле падтрымалі Свідрыгайлу. Абодва вял. князі намагаліся зноў аб'яднаць дзяржаву, кожны пад сваёй уладай. Свідрыгайла прытрымліваўся палітыкі незалежнага ВКЛ; Жыгімонт, не маючы дастатковых сіл, аднавіў дзярж. унію з Польшчай (гл. *Гарадзенска-Троцкая унія 1432—33*). Згодна з яе умовамі, Жыгімонт атрымліваў ВКЛ пажыццёва, а пасля яго смерці яно пераходзіла да Ягайлы або яго пераемніка на польскім троне. Свідрыгайла атрымаў падтрымку ад вял. князя цвярскога, Лівонскага ордэна. Яму дапамагалі аўстрыйскія, чэшскія і сілезскія добраахвотнікі. У ліст. 1432 Свідрыгайла пачаў ваенныя дзеянні і наблізіўся да Вільні. Пасля бітвы 8.1.1433 пад Ашмянамі Свідрыгайла вярнуўся ў Полацк. У жн. 1433 ён захапіў Коўна і перабіў там польскі гарнізон. Вяртаючыся назад, загадаў спаліць Заслаўе і Менск. Восенню 1433 Жыгімонт спрабаваў авалодаць Мсціславам і Віцебскам, якія належалі Свідрыгайлу. У канцы года Свідрыгайла зноў хадзіў у Літву. Каб перацягнуць на свой бок жыхароў бел. і ўкр. зямель, Жыгімонт выдаў *прывілей 1434*, якім ураўнаваў асабістыя і маёмасныя правы правасл. баяр з правамі баяр-католікаў. Восенню 1434 луцкі і крамянецкі намеснікі (Валынь) перайшлі на бок Жыгімонта. Тайныя перагаворы з ім пачалі смаленскія паны і мітрапаліт Герасім, які знаходзіўся ў Смаленску. Мітрапаліт і яго прыхільнікі былі арыштаваны і пакараны смерцю. У жн. 1435 войска Свідрыгайлы і лівонскага магістра Ф.Керскорфа ўварваліся ў Літву з Браслава. 1 вер. гэта войска разбіта ў *Вількамірскай бітве 1435* войскам Жыгімонта, якім камандаваў сын вял. князя *Міхаіл Жыгімонтавіч*; лівонскае войска было амаль цалкам знішчана, забіты і магістр. Вял. страты мела і войска Свідрыгайлы, а сам ён вярнуўся ў Полацк. Жыгімонт накіраваў вял. войска на чале з Міхаілам Жыгімонтавічам на заваяванне бел. зямель. Смаленск перайшоў на бок Жыгімонта, але Віцебск і Полацк узяць не ўдалося. Тэўтонскі ордэн, з удзелам Лівонскага, заключыў з Польшай «вечны мір» і абяцаў не дапамагаць Свідрыгайлу. У пач. 1436 Свідрыгайла прыбыў у Кіеў. З дапамогай татар ён авалодаў усх. Падоллем, на яго бок перайшла і Валынь. Аднак летам 1436 Полацк і Віцебск перайшлі на бок Жыгімонта, які пацвердзіў гэтым землям ранейшыя іх прывілеі. Замацаваўшыся ў ВКЛ, Жыгімонт пачаў праводзіць больш самастойную палітыку ў адносінах да Польшчы. Таму польскія феадалы цяпер пачалі падтрымліваць Свідрыгайлу. Супраць Жыгімонта выступіла і апазіцыя літ. знаці, незадаволеная рэпрэсіямі Жыгімонта і тым, што на дзярж. пасады ён прызначаў прадстаўнікоў дробнага і сярэдняга бел. і літ. баярства. У жн. 1437 Свідрыгайла прапанаваў свайму пляменніку каралю Уладзіславу III перадаць свае землі ў падпарадкаванне польскай кароне. Гэта паўплывала на пазіцыю баяр Кіеўскай і Валынскай зямель, якія не мелі намеру далучыцца да Польшчы. Першае наступленне войска Жыгімонта на Кіеў было адбіта свідрыгайлавым ваяводам Юршою, але пасля 2-га паходу Кіеў быў падпарадкаваны Жыгімонтам. Пад уладаю Свідрыгайлы засталіся Валынь і Падолле. Пасля ад'езду Свідрыгайлы ў Малдову, а потым у Покуцце ў



1439 Валынь і Падолле прызналі ўладу Жыгімонта. Феад. вайна скончылася. ВКЛ як адзіная дзяржава захавалася, але гарадам і вёскам былі прычынены вял. страты. Загінула шмат князёў і знатных баяр, да ўлады ў сталіцы і на месцах прыйшлі новыя людзі з сярэдняга баярства. Адбыўся пэўны перадзел феад. уласнасці, расшырыліся правы правасл. баярства. Усх. бел. і ўкр. землі захавалі сваю былую аўтаномію.

*Літ.*: Lewicki A. Powstanie Świdrygiełły. Kraków, 1892; Любавский М. К вопросу об ограничении политических прав православных князей, панов и шляхты в Великом княжестве Литовском до Люблинской унии // Сб. статей, посвященных В.О.Ключевскому. М., 1909; Пресняков А.Н. Лекции по русской истории. Т. 2, вып. 1. М., 1939.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**феадальная вайна 1697—1702**, вайна ў ВКЛ паміж групоўкай магнатаў *Сапегаў* і інш. шляхтай. Была выклікана злоўжываннямі Сапегаў, якія дамагліся гегемоніі ў ВКЛ у 1682—97, калі вял. гетманам быў Казімір Сапега, а вял. падскарбіем — яго брат Бенядзікт. Антысапегаўскі рух паступова кансалідаваўся ў канцы праўлення Яна III Сабескага. Вял. ролю ў падрыве становішча Сапегаў адыграла адлучэнне ад царквы К.Сапегі ў 1694—96 у выніку яго сваркі з віленскім біскупам К.Бжастоўскім. Станаўленне антысапегаўскага лагера (т.зв. «рэспубліканцы») завяршылася ў час бескаралеўя 1696—97. У 1696 канфедэрацыя часткі войска ВКЛ вылучыла сваіх кіраўнікоў — вял. харужага ВКЛ Рыгора Агінскага (гл. ў арт. *Агінскія*), падкаморыя берасцейскага Людвіка Пацея (гл. ў арт. *Пацеі*), віцебскага кашталяна Міхала Коцела (гл. ў арт. *Катлы*), якія пазней узначалілі ўзброеную барацьбу «рэспубліканцаў». Паліт. праграмай праціўнікаў Сапегаў стала патрабаванне ўраўнаваць правы шляхты ВКЛ з правамі шляхты Польшчы, што прадугледжвала абмежаванне паўнамоцтваў гетмана, падскарбія і інш. міністраў ВКЛ. Адпаведную пастанову 25.6.1697 прыняў элекцыйны сойм. У час выбараў караля Рэчы Паспалітай шляхта раскалолася. Сапегі апынуліся сярод прыхільнікаў кандыдата Францыі прынца Луі дэ Канці. Праціўнікі Сапегаў падтрымалі саксонскага курфюста Фрыдрыха Аўгуста (пазней кароль Аўгуст II). Узброенае супрацьстаянне ў ВКЛ пачалося як складаная частка агульнай барацьбы ў Рэчы Паспалітай за каралеўскі трон. З пункту погляду Аўгуста II Сапегі былі мяцежнікамі. Кароль даручыў Агінскаму пазбавіць К.Сапегу рэальнай улады над войскам ВКЛ. Вяліся перагаворы з Расіяй пра пасылку маскоўскага войска для барацьбы з Сапегамі. Тыя ў канцы ліст. 1697 прызналі абранне Аўгуста II, што зняло пагрозу маскоўскай інтэрвенцыі і змяніла характар барацьбы ў ВКЛ. Хоць для Аўгуста II Сапегі перасталі быць праціўнікамі, «рэспубліканцы» працягвалі барацьбу. З гэтага часу кароль імкнуўся быць пасрэднікам, аднак часцей спрыяў даўнім прыхільнікам — «рэспубліканцам». Іх асн. патрабаваннямі было ажыццяўленне пастановы аб ураўнаванні правоў, пазбаўленне Сапегаў кантролю над войскамі і фінансамі. У 1699 у ВКЛ пачало складвацца двоеўладдзе. Агінскі быў абвешчаны генеральным рэгіментарам войска, а Коцел — генеральным палкоўнікам ВКЛ, з пункту погляду «рэспубліканцаў» — вышэйшай службовай асобай у ВКЛ. Гэта пасада не была прадугледжана правам, аднак скасавана соймам толькі ў 1717. Для прыняцця асн. паліт. рашэнняў «рэспубліканцы» пачалі склікаць з'езды ВКЛ. У паветах склікаліся шляхецкія апалчэнні. Асн. ўзброеныя сутыкненні ў гэты час адбываліся ў Жамойці і паблізу яе: 29.3.1698 каля Коўна, 28.4.1698 каля Жыжмораў, 22.7.1698 каля Юрбарка. Хоць Агінскі пацярпеў няўдачы, зламаць сваіх праціўнікаў Сапегам не ўдалося. Двайстасць палітыкі караля выявілася, калі ён, з аднаго боку, спрыяў падпісанню 28.1.1698 і 27.7.1698 пагадненняў пра аднаўленне міру ў ВКЛ, а з другога — падбухторваў радыкальных правадыроў «рэспубліканцаў», якія не прызнавалі гэтых пагадненняў. Так, 1698 кароль зацвердзіў Агінскага старастам жамойцкім. Гэты этап супрацьстаяння завяршыўся дагаворам, падпісаным 21.12.1698 пад Пузевічамі (Гарадзенскі пав.), што прадухіліла пагрозу вял. бітвы паміж шляхецкім апалчэннем ВКЛ і войскам ВКЛ пад камандаваннем Сапегаў. Гетман К.Сапега цалкам прызнаў пастанову аб ураўнаванні правоў, войска ВКЛ скарачалася напалову. У 1700 Сапегі зрабілі спробу аднавіць свой ранейшы ўплыў, скарыстаўшы для гэтай мэты Скарбовы і Галоўны трыбуналы ВКЛ і дамовіўшыся з каралём пра пастаўку саксонскаму войску, што пачало аблогу Рыгі ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21*, дапаможных харугваў. У адказ «рэспубліканцы» склікалі шляхецкае апалчэнне ВКЛ. Зыход вайны вырашыла перамога «рэспубліканцаў» у бітве пад Алькенікамі недалёка ад Вільні 18.11.1700 над паўтаратысячным войскам Сапегаў. Сапегі ўцяклі з ВКЛ. Канюшага ВКЛ Міхала Сапегу шляхта разарвала. Устанаўленне ўлады «рэспубліканцаў» афарміла Алькеніцкая пастанова шляхецкай канфедэрацыі 24.11.1700. Генеральным палкоўнікам ВКЛ стаў Міхал Сервацы Вішнявецкі (гл. ў арт. *Вішнявецкія*). Сапегі былі пазбаўлены пасад і маёнткаў. Асяродкамі супраціўлення новай уладзе заставаліся буйнейшыя ўладанні Сапегаў, асабліва Стары Быхаў (гл. *Быхава аблога 1702*). Супраціўленне ў Чарэі і Дуброўне было задушана ў 1701. Сапегі імкнуліся вярнуць адабраныя пасады і маёнткі з дапамогай польскіх сенатараў і караля. Аднак пагадненні, падпісаныя 18.10.1701 і 16.1.1702, праваліліся. 6.3.1702 Сапегі перайшлі на бок шведскага караля Карла XII і сталі адны́мі з кіраўнікоў прашведскага лагера ў Рэчы Паспалітай у час Паўн. вайны. У выніку ў 1710 Сапегі дамагліся частковага вяртання маёнткаў і пасад, але былая магутнасць роду была страчана. Гал. вынікам унутр. вайны была ліквідацыя характэрнай для ВКЛ у 2-й пал. 17 ст. гегемоніі аднаго з магнацкіх родаў і прычын, што яе спараджалі.

*Літ.*: Powidaj Ł. Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku // Przegląd Polski. 1872. T. 1; Королюк В.Д. Избрание Августа II на польский престол и русская дипломатия // Уч. зап. Ин-та славяноведения АН СССР. М., 1951. Т. 3; Wojtasik J. Walka Augusta II z obozem kontystowsko-prymasowskim w pierwszym roku panowania (1697—98) // Przegąd Historyczny. 1969. Z. 1; Wasilewski T. Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z Koroną od unii lubelskiej do początku XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; Прыбытка Г. Барацьба магнацкіх груповак у другой палове XVII—пачатку XVIII ст. // Спадчына. 1995. № 5; Sliesoriunas G. Lietuvos Didóioji Kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metas. Vinius, 2000.

***Гінтаўтас Слесарунас.***



**Феадарыт** (?—1355?), мітрапаліт кіеўскі. Паходжанне невядома. У 1352, яшчэ пры жыцці кіеўскага мітрапаліта Феагноста (1328—53), прыбыў у Канстанцінопаль да патрыярха Філафея з весткай пра смерць мітрапаліта і прасіў аб пастаўленні на яго месца. Патрыярх затрымаў Ф., каб удакладніць звесткі аб смерці Феагноста і высветліць асобу Ф. Той уцёк да тырнаўскага (балгарскага) патрыярха (Сімяона або Феадосія II) і атрымаў ад яго пасвячэнне на пасаду мітрапаліта кіеўскага. Прыбыў у Кіеў, дзе быў прыняты як законны мітрапаліт. Магчыма, Ф. падпарадкоўвалася ўся правасл. царква ВКЛ. Канстанцінопальскі патрыяршы сабор абвясціў Ф. звергнутым. У чэрв. 1354 патрыярх прызначыў мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі маскоўскага стаўленіка Аляксея, а ў ліп. 1354 пераконваў наўгародскага архіепіскапа Маісея, каб той прызнаваў уладу мітрапаліта Аляксея, а не Ф. Відаць, Ф. памёр у 1355, калі за Кіеў спрачаліся мітрапаліты літоўскі Раман і кіеўскі Аляксей. Паводле рус. крыніц, ініцыятарам пастаўлення Ф. на пасаду мітрапаліта былі «паўднёвыя князі Русі». Магчыма, Ф. быў стаўленікам кіеўскага кн. *Фёдара* (брата Гедзіміна?) або вял. князя літоўскага Альгерда. Пастаўленне Ф. на кіеўскую мітраполію стала першай спробай стварэння рускай аўтакефальнай правасл. царквы, незалежнай ад Канстанцінопальскага патрыярхату (залежнасць ад Тырнаўскага патрыярхату магла быць толькі фармальнай).

*Літ.*: Голубинский Е.Е. История Русской Церкви. Т. 2, 1-я пол. М., 1901. С. 179—182; Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Одесса, 1912; Мейендорф И. Византия и Московская Русь: Очерк по истории церковных и культурных связей в XIV в. // Мейендорф И. История церкви и восточно-христианская мистика. М., 2003.

*Валерый Пазднякоў.*

**Феадосій** Васілевіч (?—11.3.1678), дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Быў архімандрытам *Слуцкага Троіцкага манастыра*. У пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* выступаў у падтрымку Расіі, у ліп. 1654 паслаў цару Аляксею Міхайлавічу ліст аб вернасці. Неўзабаве змяніў арыентацыю і як наменнік мітрапаліта кіеўскага ў крас.—маі 1655 заклікаў жыхароў Магілёва здацца войску Рэчы Паспалітай; лічыў, што правасл. духавенства пад уладай Масквы траціць незалежнасць. З 1664 кіраваў Магілёўскай епархіяй як адміністратар, у 1669 пасвячоны як епіскап магілёўскі (з 1676, па інш. звестках з 1675 меў таксама тытул «епіскап беларускі»). Зацверджаны на епіскапскай кафедры прывілеем караля Міхала Вішнявецкага ад 20.4.1672 з захаваннем за сабой Слуцкага манастыра. У 1672 пры Ф. завершана будаўніцтва ў Магілёве Мікольскай, пачата ўзвядзенне Успенскай царквы. У 1674 дзякуючы яго намаганням з Магілёўскага Спаскага манастыра выдалены манахі-базыльяне. У 1677 кароль Ян III Сабескі пазбавіў Ф. епіскапства, аднак Ф. кананічна лічыўся епіскапам да смерці. Памёр у Любліне, пахаваны 23.10.1678 грэчаскім мітрапалітам Макарыем Лігарыдам у Дзятлавіцкім манастыры (цяпер тэр. Лунінецкага р-на).

*Літ.*: Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Mironowicz A. Teodozy Wasilewicz archimandryta słucki biskup białoruski. Białystok, 1997; Агееў А.Р., Марзалюк І.А., Пушкін І.А. Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах. 2 выд. Магілёў. 1999.

*Ігар Пушкін.*

**Феафіл** (?—1330?), першы мітрапаліт літоўскі. Прызначаны галавой правасл. *Літоўскай мітраполіі*, відаць, па ініцыятыве вял. князя літоўскага Гедзіміна паміж 1315—17. У 1317, 1327 і 1329 прысутнічаў у Канстанцінопалі на пасяджэннях патрыяршага сінода (па імю названы толькі ў дакуменце 1329). Відаць, Ф. былі падначалены Полацкая і Тураўская епархіі, яго кафедра, як мяркуецца, знаходзілася ў Навагарадку. Магчыма, памёр каля 1330, калі кіеўскі мітрапаліт Феагност клапаціўся пра збіранне маёмасці памёршага мітрапаліта літоўскага.

*Літ.*: Павлов А.С. О начале Галицкой и литовской митрополий и о первых тамошних митрополитах по византийским документальным источникам XIV в. // Русское обозрение. 1894. № 5; Приселков М.Д., Фасмер М.Р. Отрывки В.Н.Бенешевича по истории русской церкви XIV в. // Изв. Отделения русского языка и словесности Императорской Академии Наук. 1916. Т. 21, кн. 1.

*Валерый Пазднякоў.*

**Федарук** Анатоль Тарасавіч (н. 1.4.1939, в. Хабы Брэсцкага р-на), беларускі вучоны ў галіне геабатанікі. Д-р біялагічных навук (1991), праф. (1995). Скончыў Брэсцкі пед. ін-т (1961). З 1970 у БДУ, з 1976 у Цэнтр. батанічным садзе НАН (заг. лабараторыі, нам. дырэктара), з 1992 у Бел. пед. ун-це (заг. кафедры). Працы па інтрадукцыі і акліматызацыі раслін, праблемах культурфітацэнозаў, папуляцый дрэвавых інтрадуцэнтаў, рэпрадукцыі кветкава-дэкаратыўных раслін і садова-паркавага мастацтва.

*Тв.*: Древесные растения садов и парков Белоруссии. Мн., 1980; Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989; Жыццёвыя формы раслін. Мн., 1996; Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000; Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004.

**Фердынанд I** Габсбург (Ferdinand I Gabsburg; 10.3.1503—25.7.1564), імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі [1556—64], аўстрыйскі эрцгерцаг. Актыўна змагаўся супраць княжацкай рэфармацыі ў Германіі, якая падрывала пазіцыі імператарскай улады. Разам з тым прыхільнік памяркоўнай рэформы каталіцкай царквы, схіляўся да кампрамісу з пратэстантамі і гусітамі. Адзін з ініцыятараў заключэння Аўгсбургскага рэлігійнага міру 1555. На *Венскім з'ездзе 1515* у выніку дыпламатычнай місіі М.*Радзівіла* была дасягнута дамоўленасць аб шлюбе Ф. з Ганнай Ягелонкай, дачкой чэшскага і венгерскага караля Уладзіслава Ягелона (шлюб заключаны ў 1521) і аб магчымасці пераходу Чэхіі і Венгрыі ад Ягелонаў да Габсбургаў. Кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст быў двойчы жанаты з дочкамі Ф. і Ганны Ягелонкі: Лізаветай і Кацярынай; адным з ініцыятараў гэтых шлюбаў быў М.*Радзівіл* Чорны. Пасля разгрому венгерскай арміі туркамі пад Мохачам у 1526 і гібелі Людовіка II Ягелона Ф. абраны каралём Чэхіі і Венгрыі. Карыстаўся папулярнасцю ў «сепаратысцкай» часткі бел.-літ. грамадства, якая бачыла ў Габсбургах процівагу Польшчы. Яго паслы ў Вільні ў 1528 адзначалі, што літ. паны-рада больш спрыяюць Габсбургам, чым палякі, апрача К.Астрожскага. Выхадцы з ВКЛ удзельнічалі ў ваенных дзеяннях на баку Ф., напрыклад, І.С.*Пересветаў*, які ў 1535 быў нават яго паслом да малдаўскага гаспадара Пятра Рарэша. У 1532 І.Астрожскі, насуперак рашэнням сойма ВКЛ, прапаноўваў Ф. выставіць

уласныя атрады для вайны з Турцыяй. У 1530-х г. у батанічным садзе Ф. у Празе працаваў Ф.*Скарына*, які, паводле некаторых меркаванняў, быў яго асабістым лекарам.

***Алесь Белы.***

**Фёдар**, князь кіеўскі ў 1-й пал. 14 ст. Вядомы з летапіснага паведамлення 1331, калі ён «с баскаки в 50 человек» нагнаў пад Чарнігавам новапастаўленага архіепіскапа наўгародскага Васіля, які ехаў з г. Уладзімір да сябе ў Ноўгарад. Ва Уладзіміры Васіля пасвяціў мітрапаліт Феагност, адхіліўшы пскоўскага кандыдата Арсенія (за ім стаяла і ВКЛ). Літ. князь паслаў наўздагон за Васілём 300 чал. літвы, а таксама загадаў Ф. схапіць архіепіскапа. Наўгародцы вырашылі абараняцца, і Ф. прыняў рашэнне не нападаць на іх, узяў водкуп і адпусціў Васіля. Такім чынам, Кіеў у гэты час фактычна залежаў ад ВКЛ. Некаторыя гісторыкі лічылі Ф. князем з дынастыі Рурыкавічаў, атаясамлівалі яго з кіеўскім кн. Станіславам літ.-бел. летапісаў. Існуе меркаванне, што Ф. — брат вял. князя літоўскага Гедзіміна (адна з крыніц сапраўды ўказвае, што ў Гедзіміна быў брат Фёдар, але не называе яго кіеўскім князем).

*Літ.*: Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Одесса, 1912. С. 14—24.

***Валерый Пазднякоў.***

**Фёдар Уладзіміравіч**, князь пінскі ў сярэдзіне 13 ст. У 1262 разам са сваімі братамі (?) пінскімі кн. Дзямідам і Юрыем віншаваў у Неблі галіцка-валынскага кн. Васільку Раманавіча з перамогай над літоўцамі. Мяркуецца, што Ф.У. у той час быў гал. пінскім князем і праводзіў палітыку патурання літоўцам у нападах на Валынь.

**Фёдараў** Іван [Масквіцін Іван Фёдаравіч: каля 1510—5(15).12.1583], рускі асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне. Месца нараджэння невядома. Зыходзячы з геральдычнай трактоўкі яго друкарскага знака, існуе гіпотэза пра яго бел. паходжанне. Паводле некаторых звестак, вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе ў 1532 атрымаў ступень бакалаўра. У 1550-я г. працаваў у т.зв. ананімнай друкарні ў Маскве. З 19.4.1563 да 1.3.1564 разам з П.*Мсціслаўцам* выдаў першую ў Расіі

Да арт. І.**Фёдараў**. Геральдычная кампазіцыя з «Апостала». Львоў. 1574.



датаваную кнігу «Апостал». Рыхтуючы яе да выдання, першадрукары правялі вял. тэксталагічную і рэдактарскую работу, аб чым сведчыць С.*Будны* ў прадмове да «Новага запавету» (Лоск, 1574). Затым 29.9 і 29.10.1565 Ф. і Мсціславец выпусцілі ў Маскве 2 выданні «Часоўніка», які выкарыстоўваўся ў працэсе пачатковага навучання грамаце. У 1566 з-за ганенняў з боку рэакцыйных свецкіх і царк. колаў Ф. і Мсціславец пакінулі Маскву і заснавалі друкарню ў мяст. Заблудава Гарадзенскага пав. ў маёнтку гетмана ВКЛ Р.А.Хадкевіча. У *Заблудаўскай друкарні* надрукаваны «Евангелле вучыцельнае» (1569) і «Псалтыр з Часаслоўцам» (1569—70). Паколькі Хадкевіч рашыў спыніць выдавецкую дзейнасць, Ф. у канцы 1572—пач. 1573 пераехаў у Львоў і заснаваў першую на Украіне друкарню. У 1574 выдаў там першую ўкр. дакладна датаваную кн. «Апостал» і першы друкаваны ўсх.-слав. падручнік «Азбука». У 1575 Ф. запрасіў на службу кн. К.Астрожскі. Каля 1578 заснаваў друкарню ў г. Астрог (гл. *Астрожская друкарня*), дзе 18.6.1578 надрукаваў новае выданне «Азбукі», дапоўненае ў параўнанні з выданнем 1574 паралельнымі грэка-слав. тэкстамі, каб дапамагчы вучням у авалоданні грэчаскай мовай, і помнікам стараж.-балгарскай л-ры «Аб пісьмёнах» Чарнарызца Храбра пад назвай «Сказанне како состави святый Кирил Философ азбуку по языку словеньску». У 1580 Ф. надрукаваў у Астрогу «Псалтыр» і «Новы запавет». У тым жа годзе выдаў паказальнік да яго: «Кніжку, збор рэчаў самых патрэбных...» — алфавітна-прадметны паказальнік і адначасова зборнік афарызмаў і крылатых слоў. 5.5.1581 у Астрогу лістоўкай Ф. надрукаваў «Храналогію» А.*Рымшы* — першы ўсх.-слав. друкаваны каляндар і першы асобна выдадзены твор бел. паэзіі (адзіны экземпляр зберагаецца ў С.-Пецярбургу). Да 12.8. 1581 Ф. надрукаваў першае поўнае вы-

данне слав. Біблії кірылаўскага шрыфту — т.зв. Астрожскую Біблію. З 1582 Ф. зноў у Львове. Імкнучыся сабраць сродкі на адкрыццё новай друкарні, Ф. адліваў гарматы, вынайшаў шматствольную марціру з узаемазаменнымі часткамі.

*Літ.*: Немировский Е.Л. Возникновенне книгопечатания в Москве: Иван Федоров. М., 1964; Я г о ж. Начало книгопечатания на Украине: Иван Федоров. М., 1974; Я г о ж. Иван Федоров в Белоруссии. М., 1979; Я г о ж. Иван Федоров. М., 1985; Першодрукар Іван Федоров та його послідовники на Україні (XVI — перша половина XVII ст.): Зб. док. Київ, 1975; Острожская азбука Ивана Федорова: Исслед. Словоуказ. М., 1983; Первопечатник Иван Федоров: Описанне изданий и указ. лит. о жизни и деятельности. Львов, 1983; Иван Федоров и восточнославянское книгопечатанне. Мн., 1984.

***Яўген Неміроўскі.***

**Фіёль** (Fiol) Швайпольт (?, г. Нойштат, Германія—паміж 1525 і 1526), славянскі першадрукар, заснавальнік першай у свеце друкарні кірылаўскага шрыфту. З 1479 паўнапраўны мешчанін Кракава. Займаўся гафцярствам (вышыванне золатам), у 1489 атрымаў каралеўскі прывілей на вынайдзеную ім водаадлўную машыну для шахтаў. Падтрымліваў сувязі з гуманістамі, прагрэсіўнай прафесурай Ягелонскага ун-та ў Кракаве. Каля 1490 на сродкі гараджаніна Яна Турзо заснаваў друкарню ў Кракаве, кірылаўскі шрыфт для якой зрабіў студэнт ун-та Рудольф Бардорф. Надрукаваў першыя слав. кнігі кірылаўскага шрыфту: «Октаіх» і «Часаслоў» (1491), у 1492—93 «Трыёдзь посная» і «Трыёдзь каляровая» (недатаваная; на думку некаторых даследчыкаў, Ф. памагалі бел. і ўкр. студэнты, якія вучыліся ва ун-це). Выданні ўпрыгожаны разнастайным арнаментам (застаўкі, ініцыялы), надрукаваны ў 2 фарбы. «Октаіх» і «Трыёдзь каляровая» маюць ксілаграфічныя франтыспісы. Непрыязныя адносіны вышэйшага каталіцкага духавенства да друкавання кірылаўскіх кніг перашкодзілі кнігавыдавецкай дзейнасці Ф. У лют. 1491 ён быў арыштаваны кракаўскай інквізіцыяй. Суд, што адбыўся ў сак. 1492, апраўдаў Ф., які абвінавачваўся ў ерасі, і прызнаў яго «прававерным і адданым католікам». З 1502 Ф. працаваў у сілезскім г. Райхенштайне. Пазней пераехаў у Славакію (г. Левача), дзе займаўся



Ш.**Фіёль**. Трыёдзь каляровая.

горнай справай. У апошнія гады жыцця вярнуўся ў Кракаў. Кнігі Ф. распаўсюджваліся ў Беларусі, Украіне і Расіі. Як устанавіў Я.Л.Неміроўскі, большасць выяўленых стараж. рукапісных запісаў на кнігах Ф. належыць рус. чытачам. Выданні Ф. і яго дзейнасць, напэўна, былі вядомы Ф.*Скарыне*, які вучыўся ў Кракаве ў пач. 16 ст. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 62.

*Літ.*: Немировский Е.Л. Начало славянского книгопечатания. М., 1971; Я г о ж. Описанне изданий типографии Швайпольта Фиоля // Описанне старопечатных изданий кирилловского шрифта. М., 1979; Я г о ж. Начало славянского книгопечатания кирилловским шрифтом // Книга: Исслед. и материалы. М., 1991. Сб. 63.

***Георгій Галенчанка.***

**Філіповіч** Афанасій, гл. *Афанасій Берасцейскі.*

**філіпок**, папулярная на Беларусі ў 1560—70-х г. назва іспана-неапалітанскіх паўталераў і талераў, контрамаркіраваных Віленскім манетным дваром у 1564. Назва «Ф.» звязана са змешчаным на аверсе большасці гэтых манет партрэтам караля Іспаніі Філіпа II [1556—98]. Апошняе ўпамінанне Ф. ў бел. пісьмовых крыніцах адносіцца да 1578.



Да арт. **Філіпок**. Паўталера Філіпа II з надчаканкай Жыгімонта II Аўгуста. 1564.

**Фіялэк** (Fijałek) Ян Непамуцэн (8.5.1864, г. Пагвіздаў каля Бохні, Польшча—19.10.1936), польскі гісторык. Чл. Польскай АН (1919), д-р габілітаваны (1893), праф. звычайны (1899), ганаровы д-р Віленскага ун-та (1932). З 1887 ксёндз. Скончыў Папскі ліцэй св. Апалінарыя ў Рыме (1889), Ягелонскі ун-т у Кракаве (1891). Выкладаў гісторыю царквы ў Львоўскім ун-це (у 1903—04 яго рэктар). Вывучаў сярэдневяковую гісторыю Польшчы і ВКЛ, гісторыю культуры, кананічнага права. Працы пра каталіцкае хрышчэнне Літвы ў 14 ст., узаемаадносіны ВКЛ і Польшчы. Удзельнічаў у выданні «*Кодэкса дыпламатычнага Віленскай кафедры і дыяцэзіі*».

*Тв.*: Średniowieczne biskupstwa kościoła wschodniego na Rusi i Litwie // Kwartalnik Historyczny. 1896. T. 10, Biskupstwa greckie w ziemiach ruskich od połowy wieku XIV: Na podstawie źrudeł greckich // Kwartalnik Historyczny. 1897. T. 11; Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę i zachowanie w niej języka ludu po koniec Rzeczypospolitej // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa etc., 1914; Opisy Wilna aż do połowy wieku XVII-go // Ateneum Wileńskie. 1923. R. 1, № 3—4; 1924. R. 2, z. 5—6.

*Літ.*: Prawo Kanoniczne. 1972. № 3/4 (змешчана бібліяграфія прац Ф.).

**фларэн** (ад лац. flos лілія), 1) высакапробная залатая манета паўд.-італьянскага г. Фларэнцыя лігатурнаю масаю 3,5 г, якая раўнялася фларэнтыйскай лікавай ліры, пачала выбівацца з 1252. Назва «Ф.» пазней пашырылася на інш. еўрапейскія манеты метралагічных параметраў Ф. незалежна ад тыпу. На аверсе Ф. выява лілії — герба Фларэнцыі, на рэверсе выява Іаана Хрысціцеля, патрона горада. Як паўнавартасныя гандлёвыя манеты Ф. вядомыя па ўсёй Еўропе. 2) Пашыраная назва зах.-еўрапейскіх залатых манет параметраў *дукатаў* на землях Польскага каралеўства і ВКЛ у 15—17 ст. (у 15—16 ст. найб. распаўсюджаных венгерскіх і чэшскіх, у 17 ст. таксама немецкіх і галандскіх). 3) Назва лікавага *злотага* ў 30 грошаў у ла-

цінска- і часам польскамоўных пісьмовых крыніцах Польскага каралеўства, ВКЛ, Рэчы Паспалітай у канцы 15—18 ст. Ад назвы «Ф.» паходзіць сімвал польскага злотага ў 16—18 ст. — літара f.

***Іван Сінчук.***

**Фларэнтыйская унія**, арганізацыйнае аб'яднанне пад уладай рымскага папы ўсяленскіх каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, абвешчанае на царкоўным саборы ў г. Фларэнцыя (Італія). Правасл. царква мусіла прызнаць каталіцкія догматы «філіокве» (зыходжанне Св. Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына), існаванне чыстца і інш. пры захаванні абраднасці і богаслужэння на грэчаскай, царк.-слав. і інш. мовах, шлюбу белага духавенства, права свецкіх людзей прычашчацца віном — і такім чынам ператваралася ва уніяцкую царкву. Скліканы папам Яўгенам IV для заключэння уніі ўсяленскі сабор (1438—45), адкрыўся ў г. Ферара, прадоўжыў дзейнасць у Фларэнцыі (адсюль назва Фларэнтыйскі ці Ферара-Фларэнтыйскі сабор) і закончыў у Рыме. Ініцыятарамі уніі побач з папствам былі кіруючыя колы Візантыйскай імперыі, у т.л. імператар Іаан VIII Палеалог і канстанцінопальскі патрыярх Іосіф II, якія спадзяваліся ў абмен на ўступы ў дагматыцы атрымаць ваенную дапамогу каталіцкага Захаду ў барацьбе з турэцкай пагрозай. З канца 14 ст. ідэю уніі паслядоўна спрабавалі рэалізаваць усе вял. князі літоўскія, найперш Вітаўт (гл. *Канстанцкі сабор 1414—18*), з мэтай узмацніць унутранае адзінства дзяржавы. Мітрапаліт кіеўскі ў ВКЛ *Герасім* [1432—35] з ведама вял. кн. Свідрыгайлы і канстанцінопальскага патрыярха вёў з Яўгенам IV перагаворы аб уніі, якая не была рэалізавана з-за пакарання смерцю Герасіма Свідрыгайлам у 1435. Дэлегацыю правасл. Кіеўскай мітраполіі (да 1458 адзінай у межах Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ) на Фларэнтыйскі сабор узначальваў мітрапаліт *Ісідор*. У яе склад уваходзілі суздальскі епіскап Аўрамій, *Грыгорый* Балгарын, аўтар «Аповесці пра Фларэнтыйскі сабор» манах Сімяон з Суздаля і інш. 5.7.1439 акт уніі быў падпісаны, а на наступны дзень яна ўрачыста абвешчана ў кафедральным саборы Фларэнцыі. З каталіцкага боку свае подпісы паставілі папа Яўген IV, 143 кардыналы, прымасы, біскупы і арцыбіскупы, з праваслаўнага — імператар Іаан VIII, мітрапаліты Антоній, Дасіфей, Ісідор і яшчэ 15 мітрапалітаў. Подпіс патрыярха Іосіфа II у акце адсутнічае, бо ён памёр 10.6.1439, але пакінуў дакумент, дзе засведчыў сваю згоду. У 1440 на зваротным шляху Ісідор спрабаваў увесці унію ў ВКЛ, але тут яна не была прынята. Апрача правасл. духавенства унія ігнаравалася і каталіцкімі іерархамі Польшчы і ВКЛ, якія адмовіліся ехаць на Фларэнтыйскі сабор і да 1443 не прызнавалі уніі і яе ініцыятара Яўгена IV і падпарадкоўваліся папе Феліксу V, абранаму Базельскім саборам, альтэрнатыўным Фларэнтыйскаму. Талерантна ставіліся да Ф.у. толькі ў Кіеве, Смаленску і некаторых інш. землях ВКЛ. Прызнаннем уніі кн. Юрый Лугвенавіч, які ў 1440—41 на кароткі час аднавіў незалежнасць Смаленскага княства ад ВКЛ, разлічваў мець падтрымку Рыма. Гэта таксама было адной з прычын непрызнання кіруючымі коламі ВКЛ Ф.у. Яшчэ больш непрыхільна Ф.у. была сустрэта ў Маскве. Удзельнік сабора Ісідор быў зняволены, а потым уцёк праз ВКЛ у Рым. Большасць духавенства Візантыі таксама не прыняла Ф.у. Яна была адвергнута Іерусалімскім 1443 і інш. царк. саборамі, у т.л. Канстанцінопальскім саборам 1450.

Пасля аднаўлення ў 1458 асобнай ад маскоўскай Кіеўскай мітраполіі ў ВКЛ (з кафедрай у Навагародку) Ф.у. падтрымлівалася вял. кн. Казімірам IV. Ён прызначыў кіеўскім мітрапалітам прыхільніка Ф.у. Грыгорыя Балгарына. Але той, не здолеўшы ўвесці уніі ў ВКЛ, адмовіўся ад яе. Наступны кіеўскі мітрапаліт *Місаіл* арганізаваў зварот вышэйшых духоўных і свецкіх асоб да папы Сікста IV пра гатоўнасць працягваць справу уніі. Да пач. 16 ст. некаторыя кіеўскія мітрапаліты (як правіла, са смаленскіх епіскапаў, напр., *Іосіф II*) фармальна лічылі Ф.у. сапраўднай на тэр. Польшчы і ВКЛ. Аднак гэта фактычна не адбівалася на жыцці духавенства і вернікаў, хаця зрабіла, напр., магчымым выпуск папам адмысловых індульгенцый, збор ад якіх мусіў пайсці на адбудову Кіева, разбуранага ў 1482 крымскім ханам Менглі-Гірэем. На прынцыпах Ф.у. была заснавана *Берасцейская унія 1596*, ідэолагі якой, асабліва Іпацій *Пацей*, часта звярталіся ў палеміцы да прыкладу Ф.у.

*Літ.*: Остроумов И.Н. История Флорентийского собора. М., 1847; Попов А.Н. Историко-литературный обзор древнерусских полемических сочинений против латинян. М., 1875; Павлов А.С. Критические опыты по истории древнейшей греко-русской полемики против латинян. СПб., 1878; Архив Юго-Западной России. Ч. 1, т. 7. Киев. 1887; Lewicki A. Unia Florenska w Polsce // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Ser. 2. Kraków, 1899. T. 13 (38); Шпаков А.Я. Государство и церковь в их взаимных отношениях в Московском государстве от Флорентийской унии до учреждения патриаршества. Ч. 1. Княжение В.В.Темного. Киев, 1904; Пирлинг О. Россия и папский престол: Пер. с фр. Кн. 1. М., 1912; Мощинская Н.В. Литературная история «Повести об осьмом Ферраро-Флорентийском соборе» Симеона Суздальского // Вопросы русской литературы. М., 1971; Acta Slavica Concilii Florentini // Concilium Florentinum: Documenta et Scriptores. Roma. 1976. Vol. 11; Зимин А.А. Витязь на распутье. М., 1991; З гісторыі уніяцтва ў Беларусі. Мн., 1996; Макарий (Булгаков М.П.). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996; Halecki O. Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej. T. 1. Lublin; Rzym, 1997.

***Алесь Белы.***

**Флемінгі**, шляхецкі род уласнага герба. Паходзілі з Фламандыі, пасля аселі ў Германіі, Даніі, Швецыі і інш. краінах, з 18 ст. ў Рэчы Паспалітай. Найб. вядомыя:

Якуб Генрык (13.3.1667—30.4.1728), сын Ежы Каспера. Вучыўся ў галандскіх ун-тах. Служыў у войску штатгальтэра Галандыі Вільгельма Аранскага, генерал. З 1693 у Саксоніі, ген.-лейтэнант (1699). Зблізіўся з курфюрстам Фрыдрыхам Аўгустам; адыграў вял. ролю ў абранні яго каралём Рэчы Паспалітай пад імем Аўгуста II. Саксонскія палкі пад яго камандаваннем неаднаразова ўмешваліся ў спрэчкі паміж Сапегамі і шляхтай на тэр. ВКЛ. Прымаючы бок магнатаў, у т.л. Радзівілаў (сваіх сваякоў), распрацоўваў планы паступовай ліквідацыі шляхецкіх вольнасцей. З 1701 канюшы ВКЛ. Актыўна ўдзельнічаў у *Паўночнай вайне 1700—21*. Пасля адмовы Аўгуста II ад трона Рэчы Паспалітай у выніку Альтранштацкага міру 1706 прызначаны ў 1708 губернатарам Дрэздэна. Пасля Палтаўскай бітвы 1709 дапамог Аўгусту II зноў заняць польскі трон. Ак-



тыўна выступаў супраць габсбургскай ідэі падзелу Рэчы Паспалітай. Безвынікова спрабаваў пашырыць польскія ўладанні на Памор'і. Пасля гэтага больш разлічваў на саюз з Аўстрыяй супраць Прусіі і Расіі. Быў прыхільнікам ваенных рэформ у Рэчы Паспалітай, выступаў супраць «гетманскага» стылю кіравання. Саксонскі ген.-фельдмаршал (1711), генерал кароннай артылерыі ў 1710—14, першы міністр Саксоніі з 1712.

Ян Ежы Дэтлаў (16.5.1699—12.12.1771), сын прускага фельдмаршала Генрыха Гайна, стрыечны брат Якуба Генрыка. З 1724 у Рэчы Паспалітай, камандаваў каралеўскім палком. Падтрымліваў абранне на трон Аўгуста III, за што прызначаны старастам шарашоўскім. Генерал артылерыі ВКЛ у 1738—46, падскарбі вялікі ВКЛ у 1746—64; фінансава ўплывовая асоба ў Рэчы Паспалітай. Выконваў дыпламатычныя даручэнні ў Саксоніі і Расіі. У 1752—59 староста берасцейскі, у мяст. Балоткаў каля Берасця, якое перайменаваў у гонар жонкі ў Тэрэспаль (Цярэспаль), уладкаваў гал. рэзідэнцыю з палацам. Быў звязаны з Чартарыйскімі, арыентаваўся на Расію, варагаваў з К.С.Радзівілам Пане Каханку. З абраннем на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага адносіны з дваром пагоршыліся, а стварэнне Скарбовай камісіі ВКЛ (1764) паклала канец яго гаспадарчай усемагутнасці. З 1766 ваявода паморскі. Варожа ставіўся да *Барскай канфедэрацыі*.

***Леў Казлоў.***



Да арт. **Флемінгі**. Я.Е.Д.Флемінг.

**Флора** (Флоря) Барыс Мікалаевіч (н. 8.12.1937, Масква), расійскі гісторык. Чл.-кар. Рас. АН (2000). Д-р гіст. навук (1981). Скончыў Маскоўскі ун-т (1960). У 1960—65 навук. супрацоўнік Археаграфічнай камісіі АН СССР. З 1965 у Ін-це славяназнаўства і балканістыкі АН СССР (цяпер Ін-т славяназнаўства Рас. АН). Адначасова з 1994 праф. Маскоўскага ун-та. Даследуе сац., этнічную і культ. гісторыю зах. славян у эпоху сярэдневякоўя, гісторыю міжнар. адносін краін Цэнтр., Усх. і Паўд.-Усх. Еўропы ў 16—17 ст. (у т.л. Расіі і Рэчы Паспалітай), гісторыю Расіі 10—17 ст., гісторыю царквы ў зах. і ўсх. славян эпохі сярэдневякоўя. Адзін з аўтараў кн. «Развіццё этнічнай самасвядомасці славянскіх народаў у эпоху ранняга сярэдневякоўя» (1982), «Прыняцце хрысціянства народамі Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы і хрышчэнне Русі» (1988), «Развіццё этнічнай самасвядомасці славянскіх народаў у эпоху сталага феадалізму» (1989), «Гісторыя Еўропы...» (т. 2—3, 1992—93), «Этнічная самасвядомасць славян у XV ст.» (1995), «Брэсцкая унія 1596 г. і грамадска-палітычная барацьба на Украіне і ў Беларусі ў канцы XVI—пачатку XVII ст.» (ч. 1—2, 1996—99), «Нарысы гісторыі славянскіх культур» (т. 1, 1996), «Асманская імперыя і краіны Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы ў XVII ст.» (ч. 1, 1998). Удзельнічае ў выданні серыі *«Помнікі гісторыі Усходняй Еўропы: Крыніцы XV—XVII стст.»*. Прэмія памяці мітрапаліта Макарыя (1997, 2001).

*Тв.*: О «Летописце Быховца» // Источники и историография славянского средневековья. М., 1967; Русско-польские отношения и балтийский вопрос в конце XVI—начале XVII в. М., 1973; Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI—начале XVII в. М., 1978; Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле // Куликовская битва. М., 1980; Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982 (з У.Ц.Пашутам, Г.Л.Харашкевіч); Грюнвальдская битва // Вопр. истории. 1985. № 7; Россия и чешское восстание против Габсбургов. М., 1986; Отношения государства и церкви у восточных и западных славян: (Эпоха средневековья). М., 1992; Историческая традиция об общественном строе средневекового Полоцка // Отеч. история. 1995. № 5; Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—начале XVII в. Ч. 1. Брестская уния 1596 г.: Исторические причины. М., 1996 (з М.В.Дзмітрыевым, С.Г.Якавенка); Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—первой половине XVII в. Ч. 2. Брестская уния 1596 г.: Исторические последствия события. М., 1996 (у сааўт.); Иван Грозный. М., 1999; У истоков религиозного раскола славянского мира (XIII век). СПб., 2004; Польско-литовская интервенция в России и русское общество. М., 2005.

*Літ.*: Florilegium: К 60-летию Б.Н.Флори. М., 2000 (змешчана бібліяграфія прац Ф.).

**Форстэр** (Forster) Георг (26.11.1754, г. Насенбург каля Гданьска—12.1.1794), нямецкі філосаф, асветнік, прыродазнавец, рэвалюцыянер. У 1765—66 падарожнічаў па Расіі, у 1772—75 удзельнічаў у плаванні капітана Дж.Кука вакол свету. З 1778 праф. ун-та ў Каселі, у 1784—87 праф. натуральнай гісторыі Гал. школы ВКЛ. У 1788 пераехаў у Майнц, дзе займаўся навук. і грамадскай дзейнасцю. З сак. 1793 у Парыжы. Актыўны ўдзельнік рэвалюцыйных падзей у Германіі і Францыі ў 1792—93, адзін са стваральнікаў першай нямецкай дэмакратычнай рэспублікі — Майнцкай камуны на Рэйне. Філасофскія погляды Ф. склаліся пад уплывам французскіх матэрыялістаў 18 ст. Яго светапогляд эвалюцыяніраваў ад рэліг. веры да дэізму, потым да матэрыялізму і некаторых элементаў дыялектыкі. Ф. цікавіўся ўтапічным сацыялізмам. Абураўся прыгнечаннем бел. і літ. сялян, выступаў супраць панскага ўціску.

*Тв.*: Рус. пер. — Избр. произв. М., 1960.

*Літ.*: Мошковская Ю.Я. Георг Форстер — немецкий просветитель и революционер XVIII в. М., 1961.

***Энгельс Дарашэвіч.***

**Фоцій** (?, г. Манемвасія, Грэцыя—1.6.1431), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ і Маскоўскага вялікага княства. У 1408—31 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (на той час Кіеўская мітраполія ахоплівала тэр. ВКЛ і Маскоўскага вял. княства). Мітрапалітам прызначаны па просьбе вял. князя маскоўскага Васіля I, насуперак пазіцыі вял. князя літоўскага Вітаўта. У вер. 1409 Ф. прыбыў з Канстанцінопаля ў Кіеў і заставаўся ў ВКЛ да вясны 1410; Вітаўт прызнаў Ф.,



відаць, з умовай яго пераважнага знаходжання ў ВКЛ і аднаўлення кіеўскай кафедры як рэальнага цэнтра мітраполіі. Аднак актыўная дзейнасць Ф. у Маскве (з крас. 1410) па вяртанні царк. маёмасці, што была страчана або разрабавана пасля смерці мітрапаліта Кіпрыяна (1406) і ў час вайны з правіцелем Залатой Арды Едыгеем (1408), закранала матэрыяльныя інтарэсы зах. епархій. Ф. абвінавачвалі ў вывазе з Кіева ў Маскву вял. каштоўнасцей і святыняў. У 1411—12 Ф. знаходзіўся ў ВКЛ (прызначыў тураўска-пінскага епіскапа Яўфімія). У 1413 (ці 1414) пры спробе прыехаць у Гародню для сустрэчы з Вітаўтам быў абрабаваны і высланы назад; намеснікі Ф. былі адхілены ад кіравання маёмасці кіеўскай кафедры. На царк. саборы 1414—15 у Навагародку епіскапы ВКЛ адмовіліся падпарадкоўвацца Ф. і абралі мітрапалітам *Грыгорыя I* Цамблака. Смерць апошняга ў адносна хуткім часе (1419/1420?) і пераарыентацыя Вітаўта на саюз з Масквой вычарпалі канфлікт. Вітаўт больш не дамагаўся падзелу мітраполіі, а Ф. са свайго боку ўзмацніў увагу да зах. епархій: ён быў у ВКЛ у 1420—21, 1423 і 1430 (у апошнім выпадку з нагоды мяркуемага каралеўскага каранавання Вітаўта; пасля смерці апошняга 27 кастр. вёў перагаворы з Ягайлам і Свідрыгайлам у Навагародку). У час феад. вайны ў Маскоўскім вял. княстве (з 1425) Ф. рашуча падтрымаў Васіля II і рэгенцтва Соф'і Вітаўтаўны. Памёр у Маскве. Праўленне Ф. (асабліва ў 2-й палове) — апошні перыяд рэальнага адзінства Кіеўскай мітраполіі.

*Літ.*: Лурье Я.С. Две истории Руси XV в.: Ранние и поздние, независимые и официальные летописи об образовании Московского государства. СПб., 1994.

***Валерый Антонаў.***

**Фра Маўра** (Fra Mauro; ?—1459 або 1460), картограф, манах кляштара Сан-Мікеле на венецыянскім в-ве Мурана. У 1457—59 па заказе партугальскага караля Альфонса V стварыў круглую карту свету. Згубленая пазней, яна вядома ў аўтарскай копіі, зробленай для сената Венецыі. Твор Ф.М. — шэдэўр сярэдневяковай картаграфіі, дакладнасць і эстэтычныя вартасці якога значна пераўзыходзяць папярэднія аналагі. Гэта першая з вядомых карт, на якой пазначана *Белая Русь*, першая гіст. крыніца, у якой згадваецца *Чорная Русь* і вылучаюцца 3 «каляровыя» часткі Русі. З прычыны асабістага незнаёмства з усх.-слав. землямі Ф.М. дапусціў у гэтым рэгіёне шэраг грубых памылак. Паводле надпісу на карце, «Белая Русь ляжыць па той бок Белага мора, Чорная Русь — па той бок Чорнай ракі, а Чырвоная — па той бок Чырвонай ракі». Белая Русь (Rossia Biancha) пазначана побач з Ноўгарадам Вялікім, паміж Волгай і воз. Белым, усе гэтыя аб'екты аднесены на З ад р. Кама. Белая Русь у Ф.М., як і ў большасці зах.-еўрапейскіх аўтараў 13—16 ст., — гэта сінонім Наўгародскай зямлі або яе часткі, заселенай калісьці народнасцю вепсаў. Усх.-слав. землі ВКЛ вядомы Ф.М. пад назвай Чырвонай Русі (Rossia Rossa), у якую ўваходзяць Кіеў і Разань. Чорная Русь (Rossia Negra) паказана на правабярэжжы Акі.

*Літ.*: Il Mappamondo di Fra Mauro. Venezia, 1956; Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV—начала XVI вв. М., 1974; Harvey P.D.A. Medieval Maps. London, 1991; Белы А. Хроніка *Белай Русі*: Нарыс гісторыі адной геагр. назвы. Мн., 2000.

***Алесь Белы.***

**Францкевічы-Радзімінскія**, Радзімінскія, шляхецкі род герба «Бродзіц». Паходзілі з Мазовіі, дзе мелі прозвішча Радзімінскія, ад імя Францішка (Францка) Радзімінскага, падкаморыя полацкага ў 16 ст., утварылася прозвішча Францкевічы. Найб. вядомыя:

Ежы (?—пасля 1629), сын Міхала. Лідскі войскі, суддзя земскі, з 1629 маршалак, каралеўскі сакратар; маршалак Трыбунала ВКЛ у 1628. Удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*.

Мікалай (каля 1585—каля 1630), сын Міхала. Харужы надворны ВКЛ у 1611—13, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1620; староста мсціслаўскі з 1613, васілішскі, радамльскі. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*.

Мацей Міхал (7—24.8.1654), харужы навагародскі з 1636, староста мазырскі з 1651, пісар польны ВКЛ з 1653.

Казімір (?—23.8.1694), сын Міхала. Падчашы менскі, лідскі падкаморы з 1674, войскі з 1687, староста з 1679, падскарбі надворны ВКЛ з 1689; маршалак Трыбунала ВКЛ у 1682, 1688, 1693; староста крэўскі. Заснаваў кляштар кармелітаў у Жалудку, базыльянскі манастыр ва Ушачах.

Стафан (?—каля 1712), сын Яна. Харужы навагародскі ў 1654, каралеўскі дваранін, староста слонімскі. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, у бітве з укр. казакамі пад Зборавым у 1649, у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Вызначыўся ў *Хацінскай бітве 1673*, у Венскай кампаніі 1683. Шмат разоў у 1648—1712 выбіраўся паслом на соймы, уваходзіў у шматлікія соймавыя камісіі.

Міхал Гедэон (?—16.6.1712), сын Стафана. Староста слонімскі з 1693, харужы надворны ВКЛ з 1695.

Казімір Юзаф (28.10.1680, Полацкае ваяв.—27.3.1728), член ордэна езуітаў з 1698, рэктар езуіцкіх калегіумаў у Оршы ў 1720—27 і Менску ў 1727—28.

Міхал Юзаф (1730, г. Валькамір—27.12.1780), член ордэна піяраў з 1746, рэктар піярскіх калегіумаў у Шчучыне і Вільні. З 1775 узначальваў Літ. правінцыю піяраў. Значна развіў школьную справу піяраў пасля скасавання ордэна езуітаў і іх навучальных устаноў.

***Валерый Пазднякоў.***

**францысканцы**, манахі каталіцкага жабрацкага ордэна меншых братоў (лац. Ordo Fratrum Minorum, OFM). Заснаваны св. Францыскам Асізскім (1181—1226, кананізаваны 9.7.1228 папам Грыгорыем IX) з мэтай захавання Евангелля, наследавання Ісусу Хрысту праз паслушэнства, беднасць, цнатлівасць, апасталат і казанне слова Божага. Узнікненне і хуткае распаўсюджванне ордэна абумоўлена становішчам і багаццем каталіцкай царквы, пашырэннем сярод гар. і універсітэцкага асяроддзя заклікаў брацьзаўзор жыццё ранняй хрысціянскай царквы. У 1208 Францыск Асізскі з групай аднадумцаў пачаў прапаведаваць у г. Асізі і наваколлі неабходнасць духоўнага абнаўлення і вяртання да жыцця апостальскіх часоў. У 1209 (1210?) папа Інакенцій III вусна пацвердзіў складзены св. Францыскам статут новай абшчыны (протастатут). 14.5.1217 на 1-й капітуле ордэна ў Парцынкуле прынята цэнтралізаваная сістэма кіравання, адбыўся яго падзел на 12 правін-






Фрагменты календара віленскіх **францысканцаў**. 15 ст.

цый, вырашана накіраваць братоў у Германію, Венгрыю, Сірыю, Францыю. У 1221 Францыск Асізскі з Цэзарыем са Смірны распрацавалі новы статут, адрэдагаваны кардыналам Угаліна і зацверджаны ў 1223 папам Ганорыем III. У выніку ордэн падзяляўся на правінцыі і кустодыі, капітулы праводзіліся раз у 3 гады, пацверджана захаванне 3 асн. зарокаў — беднасці, паслушэнства, цнатлівасці, існаванне навіцыяту. Папярэдняе манаскае заканадаўства патрабавала адмовы ад уласнасці, хоць дапускала ўласнасць калектыўную. Францысканскі ж статут адмаўляў і асабістую, і калектыўную ўласнасць, што рабіла ордэн мабільным і надавала яму характар жабрацкага і вандроўнага. Новаўвядзеннем у параўнанні з ранейшымі манаскімі статутамі было прыняцце пастаноў аб пропаведзі. Розная інтэрпрэтацыя спадчыны св. Францыска, у першую чаргу статута, стала прычынай з'яўлення ў ордэне плыняў: абсервантаў — прыхільнікаў радыкальнага стылю жыцця і выканання першапачатковага францысканскага правіла, і канвентуалаў — прыхільнікаў стрыманага стылю жыцця, які вёў да адмовы ад абсалютнага патрабавання жабрацтва. У 1446 адбыўся часовы падзел абсервантаў і канвентуалаў. Афіцыйны падзел ордэна, зроблены папам Львом X у 1517, прывёў да вылучэння францысканцаў-канвентуалаў у самастойны ордэн. На тэр. Польшчы і ВКЛ за ім захавалася назва «Ф.», а францысканцы-абсерванты атрымалі назву «*бернардзінцы*» (ад назвы першага кляштара св. Бярнарда Сіенскага ў Кракаве). Характэрнымі рысамі ордэна францысканцаў-канвентуалаў сталі: аслабленне радыкальных патрабаванняў жабрацтва паводле банавентурскай інтэрпрэтацыі статута св. Францыска і булы папы Клімента X [з 1565 ордэн атрымаў дазвол прымаць у дар і карыстацца рухомай маёмасцю, валодаць касцёламі і кляштарамі (канвентамі), якія з'яўляліся агульнай уласнасцю]; святарскі профіль, што зрабіла магчымым выкананне пастырскіх абавязкаў; правядзенне незалежных капітул; выбары кіраўніка ордэна [у 1566 яму нададзены тытул генеральнага магістра (міністра)]; утрыманне калегіумаў, якія мелі характар універсітэцкіх тэалагічных курсаў з правамі надання акадэмічных ступеняў і патрабаваннем адкрыцця ў кожнай правінцыі ордэна гімназіі з пачатковым гуманітарным і філасофска-тэалагічным навучаннем.

У ВКЛ Ф. пачалі місіянерскую дзейнасць пры вял. кн. Гедзіміне. Вял. ўклад у распрацоўку адм. структуры і арганізацыю рымска-каталіцкай царквы ў дзяржаве зрабілі біскупы *Андрэй* і Якуб Пліхта. 1-ы кляштар (канвент) ордэна заснаваны ў Вільні ў сярэдзіне 14 ст. У гэты час адчынены канвенты ў Ашмянах і Лідзе (скасаваны ў пач. 15 ст.) і ў 2-й пал. 14 ст. ў Пінску (канвент і парафія Унебаўзяцця Дзевы Марыі), якія ўваходзілі ў Польскую правінцыю. Рэформы, праведзеныя ў правінцыі ў 2-й пал. 16—пач. 17 ст., садзейнічалі росту колькасці кандыдатаў у ордэн ад мяшчан, а таксама ад шляхты і магнатаў. У 1625 створана самастойная Рус.-Літ. правінцыя св. Антонія Падуанскага, у 1686 яна падзелена на Рус. і Літ. правінцыі св. Казіміра. У 1772 у Літ. правінцыі дзейнічаў 31 канвент, з іх 21 знаходзіўся на бел. землях. У Віленскую кустодыю ўваходзілі Ашмяны (1505, канвент Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Гальшаны (1618, канвент і парафія св. Яна Хрысціцеля), Івянец (1702, канвент св. Антонія Падуанскага), Менск (каля 1676, канвент св. Антонія Падуанскага), Навагародак (пач. 18 ст., канвент св. Францыска Асізскага), Шайбакі (1737, канвент св. Бенядзікта); у Гарадзенскую — Гародня (1635, канвент і парафія Дзевы Марыі Анёльскай), Дарагічын (1749, канвент св. Францыска Асізскага), Лапенеўцы (1633, канвент св. Антонія Падуанскага), Пінск (1396, канвент і парафія Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Свіслач (1705, канвент св. Францыска Асізскага); у Ковенскую — Паставы (1617, канвент св. Францыска Асізскага), Празарокі (1698, канвент св. біскупа Людвіка), Удзела (1640—42, канвент і парафія Нараджэння і Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі); у Полацкую — Губіна (1714, канвент Наведання Дзевы Марыі), Дзісна (1630, канвент Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі), Лукомль (1636—37, канвент Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Орша (17 ст., канвент Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Полацк (1684, канвент і парафія св. Антонія Падуанскага), Сянно (нач. 17 ст., канвент і парафія св. Францыска Асізскага), Мацевічы (рэзідэнцыя св. Францыска Асізскага). У 1819 Літ. правінцыя паводле загаду царскіх улад аб'яднана з Рускай, сядзіба правінцыяла знаходзілася ў Вільні. Правінцыя была падзелена на 6 кустодый. Пасля паўстання 1830—31 большасць кляштараў Ф. скасавана.

*Людміла Карнілава.*

**Фрыч-Маджэўскі** Анджэй (каля 1503, в. Вольбуж каля Лодзі—1572), публіцыст, мысліцель-гуманіст, грамадскі дзеяч. У 1517—22 вучыўся ў Яге-



лонскім ун-це (Кракаў). Займаў высокія дзярж. пасады ў Рэчы Паспалітай, з 1547 сакратар караля Жыгімонта II Аўгуста, член многіх пасольстваў. На фарміраванне яго поглядаў наўплывала творчасць Эразма Ратэрдамскага і Ф. Меланхтана. Асн. праца — грамадска-паліт. трактат на лацінскай мове «Аб удасканаленні дзяржавы» (кн. 1—3, Кракаў, 1551; кн. 1—5, Базель, 1554). Выступаў супраць запрыгоньвання сялян, павелічэння феад. павіннасцей, адстойваў правы гараджан, патрабаваў роўнасці ўсіх перад законам. Прыхільнік цэнтралізаванай дзяржавы, моцнай каралеўскай улады, абмежаванай законам. Выступаў за развіццё асветы і навукі, крытыкаваў каталіцкую царкву, адстойваў верацярпімасць. Трактат — адзін з важнейшых твораў слав. Адраджэння — пранізаны ідэямі гуманізму, верай у чалавечы розум. Забаронены папскай курыяй. Зрабіў уплыў на грамадскую думку Беларусі і Літвы 16—17 ст. На польскую мову ўпершыню перакладзены бел. гуманістам Ц.*Базылікам* і выдадзены Я.*Карцанам* у 1577 у Лоску над назвай «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» з прадмовай М.*Стрыйкоўскага*, А.*Волана*, С.Буднага.

*Тв.*: Dzieła wszystkie. T. l—5. Warszawa, 1953—59.

*Літ.*: Voise W. Andrzej Frycz Modrzewski, 1503—1572. Wrocław etc., 1975.

***Аляксандр Коршунаў.***

**фундацыя** (ад лац. fundatio закладванне асноў), у ВКЛ ахвяраванне манастырам, цэрквам, касцёлам і інш. установам зямельных угоддзяў (у т.л. з сялянамі), грошай, каштоўнасцей і інш. Ахвяраванні (*фундушы*) звычайна рабілі феадалы ці дзяржава для заснавання пераважна духоўных устаноў і іх матэрыяльнага забеспячэння. У ВКЛ у 15—пач. 16 ст. вядомы Ф. каталіцкім рэліг. установам. Паводле пастановы 1481 вял. кн. Казіміра, буд-ва правасл. храмаў на тэр. ВКЛ было забаронена. Толькі ў 1507 выдана першая пасля амаль 30-гадовага перапынку грамата аб Ф. на правасл. царкву. Асн. формам Ф. дзяржавы і насельніцтва на цэрквы і касцёлы ў 1-й пал. 16 ст. была *дзесяціна* — натуральны падатак збожжам. У выніку *валочнай памеры* дзесяціна ў дзярж. уладаннях адмянялася, а цэрквы і касцёлы надзяляліся зямлёй (1—2 валокі). Ахвяраванні і завяшчанні асобных феадалаў на карысць царквы былі разнастайнымі: зямля з сялянамі, *пустаўшчыны*, сенажаці, лясы, гар. *юрыдыкі*, вёскі, маёнткі, грошы, каштоўнасці, рухомая маёмасць, сял. выплаты ці павіннасці і інш.

***Валянцін Голубеў.***

**фундуш** (ад лац. fundus аснова), у ВКЛ акт, згодна з якім касцёлам, цэрквам, манастырам, навуч. установам ахвяраваліся грашовыя сродкі, рухомая і нерухомая маёмасць, а таксама само ахвяраванне. Гл. таксама *Фундацыя*.

**фунт** (ад лац. pondus вага), адзінка масы. Шырока ўжываліся англійскі Ф. (гандлёвы — 453,59 г, аптэкарскі — 373,24 г), прускі Ф. (467,71 г). У Расіі 1 гандлёвы Ф. = 32 лотам = 96 залатнікам = 9216 долям = 409.51 г (аптэкарскі — 307,3 г). Пры стандартызацыі 1899 Ф. вызначаны ў 358,32 г. Польскі Ф. 16 ст. = 2 грыўням = 493,68 г. Рэформай 1764 уведзены каронны (вроцлаўскі) Ф. = 320 грыўням = 405,23 г. У сістэме мер ВКЛ 1766 літоўскі Ф. = 0,8 берлінскага Ф. = 374,83 г. У 1819 вызначаны ўсеагульны стандартны Ф. = 16 унцыям = 32 лотам = 128 драхмам = 384 скрупулам = 9216 гранам = 405,5 г.

*Літ.*: Петрушевский Ф. Краткая европейская метрология... СПб., 1842; Шостьин Н.А. Очерки истории русской метрологии, XI—начало XX в. 2 изд. М., 1990.

***Яўген Анішчанка.***

**фут** (англ. foot стапа), адзінка даўжыні. Найб. пашыраны былі французскі Ф. (0,32484 м) і англійскі Ф. (0,30479 м). У Расіі Ф. = 12 дзюймам (цалям) = 120 лініям = 1/7 сажня = 0,4 аршына = 0,3048 м. У сістэме польскіх мер 1817 Ф. вызначаны ў 0,288 м. У ВКЛ выкарыстоўвалі кракаўскі тып французскага Ф. ў 0,356421 м (*стапа*) і французскі Ф., які па вызначэнні С.Богуша-Сестранцэвіча (1782) адпавядаў 0,5 літоўскага локця.

*Літ.*: Петрушевский Ф. Польская метрология, или Описанне польских мер. весов и монет. 2 изд. СПб., 1834; Его ж. Краткая европейская метрология... СПб., 1842; Памятная книжка Минской губернии на 1900 г. Мн., 1899; Шостьин Н.А. Очерки истории русской метрологии, XI—начало XX в. 2 изд. М., 1990.

***Яўген Анішчанка.***





**Хаванскі** (Хованский) Іван Андрэевіч [мянушка Т а р а р у й; ?—17(27).9. 1682], расійскі палітычны і ваенны дзеяч, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. З княжацкага роду, які вёў радаслоўную ад вял. князя літоўскага Гедзіміна. Пачаў службу ў цараванне Міхаіла Фёдаравіча, у 1636 стольнік, з 1659 баярын. У 1650—54 ваявода ў Туле, Ябланаве, Вязьме. У паходзе 1655 галава маскоўскіх дваран царскага палка. У 1656 ваявода ў захопленым Магілёве. У 1657 прызначаны ваяводам у Пскоў, удзельнічаў у вайне са Швецыяй. У лют. 1659 разбіў каля Друі атрад польнага пісара ВКЛ Я.Валовіча. Увосень 1659 узначаліў армію, якая дзейнічала ў зах. Беларусі. 22.12.1659 заняў Гародню, пасля — Заблудаў, Камянец; у выніку штурму 13.1.1660 узяў Берасце. У сак. 1660 аблажыў Ляхавіцкі замак і двойчы няўдала яго штурмаваў. 28 чэрв. войска Х. разбіта ў *Палонкаўскай бітве 1660*, пасля якой зняў аблогу Ляхавіцкага замка. У кастр. 1660 пацярпеў паражэнне каля Чарэі і адступіў у Полацк. У лют. 1661 разбіў пад Друяй і паланіў палкоўніка Лісоўскага. Пацярпеў паражэнне ў *Кушліцкай бітве 1661*. Удзельнічаў у падаўленні Маскоўскага паўстання 1662. 16.6.1664 разбіты каля Віцебска М.К.Пацам. У 2-й пал. 1660-х г. узначальваў Ямскі прыказ, быў ваяводам у Ноўгарадзе і Смаленску. У час Маскоўскага паўстання 1682 быў пастаўлены на чале Стралецкага прыказа. У барацьбе за ўладу абапіраўся на стральцоў, супрацьпаставіў сябе кіруючым вярхам і па загадзе царэўны Соф'і Аляксееўны пакараны смерцю.

**Хаджы Хасроў** (А з і Х а с р о ў; да 1563, Полацк?—пасля 8.4.1595), персідскі дыпламат 1590-х г. Аб яго бел. паходжанні паведамляе ў адпісцы астраханскі ваявода Ф.Траекураў: «А родом... он литвин, полотцкого взятья». Пасля захопу Полацка войскамі Івана Грознага (1563) быў вывезены ў Масковію, адтуль у Персію. Пры двары шаха Абаса займаў пасаду перакладчыка. У маі 1592—ліст. 1594 узначальваў пасольства ў Маскву. Вёў паспяховыя перагаворы з урадам Фёдара Іванавіча аб саюзе і гандлі паміж Персіяй і Масковіяй. У Маскве меў кантакты з аўстрыйскім пасольствам М.Варкача адносна саюзу еўрапейскіх дзяржаў і Персіі супраць Турцыі.

*Літ.*: Б у ш е в П.П. История посольств и дипломатических отношений Русского и Иранского государств в 1586—1612 гг.: (по русским архивам). М., 1976.

*Алег Ліцкевіч.*

**«Хаджэнне архімандрыта Графенія»**, помнік літаратуры канца 14 ст. Напісана архімандрытам, відаць, Смаленскага Багародзіцкага (з 1658 Спаса-Аўраміева) манастыра Графеніем. Увесну 1375 ён наведаў Іерусалім, летам таго ж года абышоў і апісаў інш. святыя мясціны Палесціны: Віфліем, Назарэт, р. Іардан і інш. «Хаджэнне» складзена ў Палесціне, у 15 ст. адрэдагавана невядомым кніжнікам. Асаблівую ўвагу Графеній звяртаў на тэхнічныя асаблівасці будынкаў, апісваў муроўку сцен, слупы, скляпенні, падмуркі. У творы адлюстраваны шматлікія паданні пра Ісуса Хрыста, Багародзіцу, першых хрысціян. Даюцца звесткі эканам., с.-г., паліт., этнаграфічнага зместу. Апавяданне вызначаецца сухім інфармацыйна-дзелавым стылем. У творы прадстаўлены шырокі пласт старабел. лексікі, якая не сустракаецца ў творах больш позняга часу. Нягледзячы на запазычанні з *«Хаджэння ігумена Данііла»* (спосаб стварэння аповеду, формы выкладання), Графеній стварыў цалкам арыгінальны і змястоўны твор. У адным са спісаў «Хаджэння» захаваліся замалёўкі палесцінскіх цэркваў, якія, магчыма, узыходзяць да эскізаў, зробленых самім Графеніем.

*Літ.*: Г а р а н і н С.Л. Шляхамі даўніх вандраванняў: Гіст.-тэарэт. нарыс развіцця паломніцкай літаратуры Беларусі XII—XVI стст. Мн., 1999.

*Сяргей Гаранін.*

**«Хаджэнне ігумена Данііла»**, помнік старажытнарускай літаратуры пач. 12 ст. Напісана не пазней 1113 выхадцам з Чарнігаўшчыны ігуменам Даніілам, які ў 1104—06 (паводле інш. меркаванняў, у 1106—08) здзейсніў падарожжа ў Святую зямлю праз Канстанцінопаль, Кіпр і 16 месяцаў прабыў у Палесціне, дзе цікавіўся мясцінамі, звязанымі з біблейскімі падзеямі і героямі, асабліва ў Іерусаліме. Дэталёва і дакладна апісаў цэрквы і манастыры, шматлікія хрысціянскія святыні Палесціны. Твор карыстаўся вял. папулярнасцю на Русі (захавалася больш за 100 спісаў, самы ранні з іх 15 ст.), паслу-

жыў узорам для інш. твораў гэтага жанру. У Беларусі быў вядомы ў рукапісе 16 ст. (зберагаўся ў б-цы Красінскіх, Варшава, загінуў у 2-ю сусв. вайну), побач з *«Хронікай Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, бел. перакладамі *«Аповесці пра Таўдала»* і біблейскай кнігі Товіт змешчана і «Хаджэнне».

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Хаджэнне ў Царград і Іерусалім»,** помнік старажытнай рускай і беларускай літаратуры канца 14—пач. 15 ст. Напісана смаленскім дзякам Ігнаціем, які ў 1389 суправаджаў мітрапаліта Пімена ў час падарожжа ў Царград. Быў там да 1393, пасля жыў у Іерусаліме, у манастыры на Афоне (Грэцыя), дзе і памёр каля 1405. Твор вылучаецца багаццем зместу, месцамі нагадвае падарожны дзённік. У ім дакладна апісаны шлях з Масквы на Б. Усход, г. Канстанцінопаль (Царград), Іерусалім, Палесціна, а таксама асобныя падзеі грамадска-паліт. жыцця тагачаснай Візантыйскай імперыі (напр., каранацыя імператара Мануіла). Гэтаму аўтару прыпісваліся «Аповесць пра Амурата і бітва на Косавым полі» і «Сказанне летом вкратце», што змешчаны ў рукапісах у канцы тэксту помніка.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Хаджэнні» Варсанофія**, 2 творы царкоўнай літаратуры 15 ст., апісанні падарожжаў іераманаха Варсанофія ў Палесціну, Егіпет і на Сінайскі п-аў. Пачатковым пунктам 1-га падарожжа (1456) быў Кіеў, далейшы маршрут прайшоў праз Белгарад, Канстанцінопаль, Крыт, Родас, Кіпр, Латакію, Трыпалі, Бейрут, Дамаск і закончаны ў Іерусаліме. Мэтай 2-га падарожжа (1461—62) таксама быў Іерусалім. Яно пачалося ў Кіеве, праходзіла праз Малдову, Белгарад, Канстанцінопаль, Галіполі, Крыт, Родас, Кіпр, Егіпет, Сінай. Звесткі аб далейшым маршруце ў помніку адсутнічаюць. Гал. месца ў «Х.»В. займае апісанне святых месцаў хрысціян, цэркваў, манастыроў. Значная ўвага аддадзена тапаграфіі, шляхам зносін, прыродзе; зафіксаваны нар. легенды, у т.л. на біблейскія сюжэты; адзначана добразычлівае стаўленне мусульманскіх улад да хрысціянскіх паломнікаў. «Х.»В. ўяўляюць сабой дарожныя нататкі, канчаткова літаратурна не апрацаваныя. Мова твора сведчыць пра бел. ці ўкр. паходжанне аўтара. Асоба Варсанофія не зусім высветлена, паводле некаторых звестак, у 3-й чвэрці 15 ст. ён быў ігуменам Барысаглебскага манастыра ў Бельчыцах пад Полацкам.

*Літ.*: Православный палестинский сборник. Вып. 45. СПб., 1896; Книга хожений: Зап. рус. путешественников XI—XV вв. М., 1984; Гаранін С.Л. Шляхамі даўніх вандраванняў. Мн., 1999.

***Васіль Варонін.***

**Хадкевічы**, магнацкі род герба «Касцеша». Асобныя прадстаўнікі роду карысталіся гербам «Грыф з мячом». Паходзяць ад кіеўскага баярына Ходара (Фёдара) Юр'евіча, празванага Ходкам (Ходзькам), вядомага ў 1431—47; у 1434 ён разам з інш. падпісаў акт уніі ВКЛ з Польшчай. У 2-й пал. 16 ст. Х. перайшлі з праваслаўя ў кальвінізм, а потым у каталіцтва. У 1568 сярэдняя галіна роду атрымала графскі тытул Свяшчэннай Рымскай імперыі. Тытул быў прызнаны ў ВКЛ, Х. тытулаваліся графамі «на Шклове і Мышы». Пасля згасання сярэдняй галіны роду ў 1626 тытул перайшоў да малодшай галіны. Маёнткі Х. знаходзіліся на Падляшшы (Заблудаў, Супрасль, Дойліды), у Гарадзенскім пав. (Бераставіца, Рось), Навагародскім пав. (Мыш), Аршанскім пав. (Шклоў, Быхаў), валодалі часткай Глускага маёнтка, Чарнобылем і інш. Збіралі б-кі, архівы (гл. *Архівы Хадкевічаў*). Найб. вядомыя:




Герб **Хадкевічаў** з кнігі «Акафіст». Кіеў. 1625.



Да арт. **Хадкевічы**. Пячатка Ходара Юр'евіча. 1422.

Іван (Івашка; каля 1430—84), сын Ходкі. Намеснік лідскі, маршалак гаспадарскі ў 1470—79, намеснік віцебскі з 1476, староста луцкі з 1478, ваявода кіеўскі з 1481. У 1482 пры захопе Кіева крымскімі татарамі ўзяты ў палон, памёр у Крыме.

Аляксандр Іванавіч (каля 1457—28.5.1549), сын Івана. Маршалак гаспадарскі ў 1506—09, 1511—47, ваявода навагародскі з 1544; намеснік пунскі, староста берасцейскі, кнышынскі, дзяржаўца астрынскі.

Рыгор Аляксандравіч (?—12.11.1572 або 19.11.1573), сын Аляксандра Іванавіча. Заснавальнік старэйшай галіны роду. Падкаморы ВКЛ у 1544—59, ваявода віцебскі ў 1554—55 і кіеўскі ў 1555—59, кашталян троцкі ў 1559—64 і віленскі з 1564, адначасова гетман польны ў 1561—66 і гетман вялікі з 1566; староста ковенскі, магілёўскі, гарадзенскі, тыкоцінскі. Як палкаводзец вызначыўся ў *Інфлянцкай вайне 1558—82.* У *бітве на Уле 1564* камандаваў конніцай, якая першая ўдарыла на ворага, а потым праследаваў рэшткі праціўніка па дарозе на Полацк. Варожа ставіўся да Радзівілаў. Праціўнік *Люблінскай уніі 1569*, у знак пратэсту супраць яе заключэння адмовіўся ад дзярж. дзейнасці. Прыхільнік праваслаўя. Прыняў у Заблудаве друкароў І.*Фёдарава* і П.*Мсціслаўца*, якія там выдалі «Евангелле вучыцельнае» і «Псалтыр з Часаслоўцам» (гл. *Заблудаўская друкарня*).

Геранім Аляксандравіч (?—1561), сын Аляксандра Іванавіча. Заснавальнік сярэдняй галіны роду. Падчашы ВКЛ у 1542—44, кашталян троцкі ў 1544—59, адначасова генеральны староста жамойцкі з 1545 і

каштэлян віленскі з 1559; староста ашмянскі, цельшаўскі, платэльскі. Умацаваў становішча Х. у вышэйшых дзярж. колах ВКЛ.

Юрый Аляксандравіч (?—6.6.1569), сын Аляксандра Іванавіча. Заснавальнік малодшай галіны роду. Дзяржаўца ашмянскі з 1554, стольнік ВКЛ у 1554—55, крайчы ВКЛ у 1555—66, каштэлян троцкі з 1566.

Ян Геранімавіч (каля 1537—4.8.1579), сын Гераніма Аляксандравіча. Стольнік ВКЛ у 1559—64, генеральны староста жамойцкі з 1564, адначасова маршалак вялікі ВКЛ з 1566 і каштэлян віленскі з 1574; адміністратар Інфлянтаў у 1566—78, староста ковенскі, цельшаўскі, платэльскі. Удзельнічаў у Інфлянцкай вайне, бітве на Уле 1564, інш. баях. Праціўнік Люблінскай уніі 1569, выступаў супраць кандыдатуры Івана Грознага на польскі і літ. трон, прыхільнік Генрыка Валезы і Габсбургаў (ад імператара Фердынанда І у 1568 атрымаў графскі тытул).

Геранім Юр'евіч (каля 1560—1617), сын Юрыя Аляксандравіча. Канюшы ВКЛ у 1588—93, ваявода мсціслаўскі ў 1593—95, каштэлян віленскі і староста берасцейскі з 1595. Удзельнічаў у войнах з Расіяй і Швецыяй. У час *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09* забяспечыў каралю Жыгімонту III падтрымку ў ВКЛ.



Да арт. **Хадкевічы**. Я.К.Хадкевіч. Невядомы мастак. Пасля 1620.

Ян Кароль (1560—24.9.1621), сын Яна Геранімавіча. Вучыўся ў Віленскай і Інгальштацкай (Германія) акадэміях. Падчашы ВКЛ у 1596—99, генеральны староста жамойцкі ў 1599—1616, адначасова гетман польны ў 1601—05, адміністратар Інфлянтаў з 1603, гетман вялікі з 1605, ваявода віленскі з 1616; староста дорпацкі, віленскі, любашанскі. У 1596 удзельнічаў у падаўленні *Налівайкі паўстання 1595—96*. У *вайну Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* вызначыўся ў бітвах пад Кокенгаўзенам (1601), Дорпатам (1603), Белым Каменем (1604) і асабліва ў *Кірхгольмскай бітве 1605*, дзе перамагаў з меншымі сіламі. Спачатку быў праціўнікам *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, пасля камандаваў войскам у паходах 1611 на Маскву, прывозіў у 1611—12 харчаванне і боепрыпасы для польска-бел. гарнізона ў Крамлі. У жн.—вер. 1612 штурмаваў Маскву, але прабіцца ў Крэмль на дапамогу гарнізону не здолеў. У 1613—15 абараняў Смаленскае ваяв. ад рас. ваявод. У 1617—18 узначаліў войска, якое пайшло з каралевічам Уладзіславам (фармальна царом Расіі з 1610) здабываць маскоўскі трон. Разам з укр. казацкім войскам гетмана П.Канашэвіча-Сагайдачнага заняў с. Тушына, аднак агульны штурм Масквы не ўдаўся, пасля чаго было падпісана *Дэулінскае перамір'е 1618*. У 1621 узначаліў польскае, бел.-літ. і укр. казацкае войска, сабранае супраць туркаў і крымскіх татар, у час пераможнай *Хацінскай бітвы 1621* памёр.



Да арт. **Хадкевічы**. Смерць гетмана Я.К.Хадкевіча. Мастак Ф.Смуглевіч. 1806.

Аляксандр (?—1626), сын Яна Геранімавіча. Ваявода троцкі з 1605. Удзельнічаў у вайне са Швецыяй 1600—29. Валодаў Мышшу і Шкловам, якія пасля яго смерці перайшлі ў род *Сяняўскіх*.

Крыштоф (?—3.10.1652), сын Гераніма. Харужы вялікі ВКЛ у 1611—23, канюшы ВКЛ у 1623—33, каштэлян троцкі ў 1633—36 і віленскі ў 1636—42, ваявода віленскі з 1642; староста гарадзенскі, бабруйскі, крэўскі, дзяржаўца беліцкі, вішнеўскі.

Ян Казімір (1616—13.3.1660), сын Крыштофа. Канюшы ВКЛ у 1633—46, каштэлян віленскі з 1646. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 143.

*Літ.*: Naruszewicz A. Żywot J.K.Chodkiewicza, wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego W.Ks.Lit. T. I—2. Kraków, 1858; Chomętowski W. Korrespondencye Jana Karola Chodkiewicza. Warszawa, 1875; Kossakowski S.K. Monografie historyczno-genealogiczne niektórych rodzin polskich. T. 1. 2 wyd. Warszawa, 1876; Podhorodecki L. Jan Karol Chodkiewicz, 1560— 1621. Warszawa, 1982; Яго ж. Dzieje rodu Chodkiewiczów. Warszawa, 1997; Чарняўскі М. Права-

дыр крылатых вершнікаў: Ян Кароль Хадкевіч. Мн., 1998; Грыцкевіч А. Ян Кароль Хадкевіч // Слаўтыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. Вып. 1.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Хадыніцкі** (Chodynicki) Казімеж (31.3.1890, Варшава—14.5.1942), польскі гісторык. Чл.-кар. Польск. АН у Кракаве (1927), д-р габілітаваны (1920), праф. звычайны (1924). Скончыў Кракаўскі ун-т (1914). Выкладаў гісторыю ў Варшаве, у 1915—18 у Маскве (у эвакуацыі), сакратар Польскага навук. т-ва, у 1918—21 у Вольным Польскім ун-це ў Варшаве, у 1921—28 у Віленскім ун-це (з 1921 праф., заг. кафедры сярэдневяковай гісторыі і дапаможных гіст. навук). У 1919—20 працаваў у Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве. Заснавальнік і першы рэдактар час. «Ateneum Wileńskie» (1923—28). З 1928 праф., заг. кафедры гісторыі Усх. Еўропы Пазнанскага ун-та. У 1939—40 зняволены як заложнік ням. фашыстамі. Выкладаў на тайных запятках Варшаўскага ун-та і ун-та Зах. зямель. Даследаваў гісторыю ВКЛ, права, царквы ў Польшчы і ВКЛ, праблемы гістарыяграфіі, дыпламатыкі і палеаграфіі ВКЛ.

*Тв.*: Próby zaprowodzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // Przegląd Historyczny. 1914. T. 18; Poglądy na zadania historii w epoce Stanisława Augusta. Warszawa, 1915; Geneza równouprawnienia schyzmatyków w Wielkim Ks. Litewskim: Stosunek Zygmunta Augusta do wyznania grecko-wschodniego // Przegląd Historyczny. 1919—20. T. 22; Stosunek Rzeczypospolitej do wyznania grecko-wschodniego // Там жа. 1921—22. T. 23; Geneza dynastji Giedymina // Kwartalnik Historyczny. 1926. № 4; Ze studjów nad dziejopisarstwem rusko-litewskiem: (T.z. Rękopis Raudański) // Ateneum Wileńskie. 1925—26. R. 3; Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska: Zarys historyczny, 1370—1632. Warszawa, 1934.

*Літ.*: Bodniak S. Kazimierz Chodynicki (1890—1942) // Kwartalnik Historyczny. 1939—45. R. 53; Pietkiewicz K. Kazimierz Chodynicki // Wybitni historycy wielkopolscy. Poznań, 1989.

*Валерый Пазднякоў.*



Да арт. **Халецкія**. Арас з гербам Дз.Халецкага. Фландрыя. 4-я чвэрць 16 ст.

**Халецкія**, шляхецкі род уласнага герба ў ВКЛ. Родапачынальнік Мішка жыў у канцы 14 ст., меў некалькі сыноў, у т.л. Каленіка, з нашчадкаў якога паходзіць род *Тышкевічаў*. Павел Мішкавіч у 1437 атрымаў ад вял. кн. Свідрыгайлы замест г. Сноўск у Северскай зямлі маёнтак Хальч недалёка ад Гомеля. Ад назвы маёнтка, які да пач. 20 ст. знаходзіўся ў валоданні роду Х., утварана родавае прозвішча. Сынамі Паўла былі Яўстафій, Андрэй, Багдан, падключы віленскі. Магчыма, сынам Паўла быў і Грыгорый (?—1472), мітрапаліт кіеўскі. Найб. вядомыя:

Іосіф Яўстаф'евіч, сын Яўстафія Паўлавіча, гараднічы рэчыцкі (паміж 1501—06).

Міхаіл Яўстаф'евіч, сын Яўстафія Паўлавіча, пасол у Арду ў 1484, 1496, 1501, 1511, адыгрываў важную ролю ва ўсх. дыпламатыі ВКЛ, намеснік рэчыцкі ў 1511.

Міхаіл Міхайлавіч, сын Міхаіла Яўстаф'евіча, гараднічы кіеўскі, стараста оўруцкі, пасол у Крым у 1521.

Есіф Міхайлавіч (?—1559), сын Міхаіла Міхайлавіча. Стараста оўруцкі ў 1544—53, чаркаскі і канеўскі з 1555, маршалак гаспадарскі з 1558. У 1537 разам з братам Астафам атрымаў пацвярджальны прывілей на Хальч, калі Гомельскае староства было вернута з-пад улады Вял. княства Маскоўскага.

Дзмітрый Есіфавіч (Дзмітрый Іосіфавіч; каля 1550—да 20.1.1598), сын Есіфа Міхайлавіча. Мечнік ВКЛ у 1579—88, падскарбі дворны ў 1588—90, падскарбі земскі і пісар ВКЛ з 1590. Вызначыўся добрым кіраваннем скарбам ВКЛ. Маршалак сойма 1589. Быў каралеўскім камісарам пры падпісанні Берасцейскай уніі 1596.

Андрэй Іосіфавіч (?—да 6.2.1595), сын Есіфа Міхайлавіча. Рэчыцкі пісар земскі ў 1569, суддзя земскі з 1579, маршалак з 1589. Пасол на сойм 1569, падпісаў акт Люблінскай уніі 1569, пасол у Вял. княства Маскоўскае з паведамленнем пра заключэнне уніі. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у т.л. ў баях пад Полацкам, Вял. Лукамі, Псковам.

Ян Іосіфавіч (?—да 24.8.1615), сын Есіфа Міхайлавіча. Маршалак гаспадарскі ў 1588—89, мечнік ВКЛ з 1589.

Мікалай Крыштоф (каля 1589—7.4.1653), сын Дзмітрыя Есіфавіча. Вучыўся ў Вільні, Лёвене (Галан-

дыя), Парыжы. Каралеўскі дваранін, 18 разоў быў паслом на соймы. Мечнік ВКЛ у 1615—50, ваявода навагародскі з 1650, староста алькеніцкі, ляйпунскі, аліцкі.

Аляксандр (?—да 12.10.1651), сын Дзмітрыя Есіфавіча. Вучыўся ў Лёвене. Войт віленскі ў 1610—20, каралеўскі сакратар у 1620, маршалак лідскі з 1623. Шмат разоў выбіраўся паслом на соймы, яго маршалак у 1627, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1628—32.

Уладзіслаў Юрый (30.5.1606, мяст. Ваганаў Берасцейскага ваяв.—4.2.1668), сын Яна Іосіфавіча. З 1625 служыў у войску. Падкаморы і староста мазырскі з 1654, стражнік ВКЛ з 1656. Шмат разоў быў паслом на соймы, дэпутатам Трыбунала ВКЛ, яго маршалкам у 1649. Вызначыўся ў час баявых дзеянняў з Б.Хмяльніцкім, у бітве пад Берасцечкам 1651, са шведскімі і рас. войскамі.

Міхал (12.11.1679, мяст. Вяйсеі Гарадзенскага пав.—24.1.1715), сын Караля Казіміра, старасты мазырскага. Староста мазырскі з 1695, абозны ВКЛ з 1709, пасол на соймы 1696—97. Палкоўнік войска ВКЛ (1697), ваяваў супраць Сапегаў у бітве пад Алькенікамі 1700. У 1703 пасол да цара Пятра І.

*Літ.*: Halecki O. Chaleccy na Ukrainie // Miesięcznik Heraldyczny. 1910. № 8—12; Kuczyński S.M. Rodowód Michała Chaleckiego // Там жа. 1934. № 1—2.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**халупнікі**, беззямельныя і малазямельныя сяляне на Беларусі ў 16—19 ст. Маёмасць Х. найчасцей складалася з хаты (халупы) і невял. колькасці жывёлы. У ВКЛ Х. не адраблялі паншчыны і не плацілі аброку, але штогод плацілі пану, на зямлі якога жылі, т.зв. паседзінкі (2—4 злотых). Малазямельныя Х. ў 17 ст. зліліся з *цяглымі сялянамі*.

**хамаілы** (арабск. хамаіл — «тое, што носяць пры сабе», «талісман», «амулет»), у беларускіх татар кнігі малога фармату, у якіх сабраны малітвы на арабскай і цюркскай мовах, асобныя суры (айаты) Карана, тлумачэнні рэлігійных абрадаў, а таксама парады па лячэнні хвароб, тлумачэнні сноў, календары шчаслівых і нешчаслівых дзён. Звычайна арабскія і цюркскія тэксты



**Хамаіл**. Апошняя чвэрць 19 ст. Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі.

суправаджаюцца тлумачэннямі на бел. або польскай мовах. Узорам для Х. бел. татар былі рукапісы, прывезеныя з мусульманскіх краін, напр., Турцыі, хаця назва «Х.» у інш. раёнах мусульманскага свету не выкарыстоўвалася для малітоўнікаў. Вылучаюць Х. «молінскія» (прызначаліся для мул — «мол», змяшчалі малітвы і тлумачэнні абрадаў), «фалдзейскія» (служылі варажбітам, знахарам — «фалдзеям», змяшчалі астралагічныя табліцы і магічныя рэцэпты супраць розных хвароб) і універсальныя. Сярод татарскіх кніг Х. былі найб. распаўсюджанымі ў паўсядзённым ужытку рукапісамі. У кожнай мусульманскай сям'і быў адзін ці некальKі Х. Практыка іх перапісвання працягвалася даўжэй за інш. кнігі — зарэгістраваны хамаілы 1971 і 1986. Старэйшы Х. (1-я пал. 17 ст.) знаходзіцца ў б-цы Лейпцыгскага ун-та («фалдзейскі»). У Беларусі Х. захоўваюцца ў Нац. б-цы Беларусі (7 экз.), Цэнтр. навук. б-цы НАН Беларусі (6 экз.), Гродзенскім дзярж. музеі гісторыі рэлігіі (11 экз.) і ў прыватных калекцыях.

*Літ.*: Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў: Каталог выставы. (Да 600-годдзя татарскага асадніцтва на Беларусі). Мн., 1997; Drozd A., Dziekan M.M., Majda T. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 2000; Мишкинене Г. Древнейшие рукописи литовских татар: (Графика. Транслитерация. Перевод. Структура и содержание текстов). Вильнюс, 2001; Рукапісы беларускіх татараў канца XVII—пачатку XX стагоддзя з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: Каталог / Уклад.: І.А.Ганчарова, А.І.Цітавец, М.У.Тарэлка. Мн., 2003; Мишкинене Г., Намавичюте С., Покровская Е. Каталог арабскоалфавитных рукописей литовских татар. Вильнюс, 2005.

***Алена Цітавец.***



**Хамаіл**. 2-я пал. 19 ст. Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі.

**Хамінскі** Францішак Ксаверы (?—9.6.1809), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Займаў пасады старасты пінскага, ваяводы мсціслаўскага (з 1788), маршалка менскага (1793—1807). Як прыбліжаны гетмана М.К.*Агінскага* ездзіў з дыпламатычнымі даручэннямі ў Зах. Еўропу. У 1797 арыштаваны па падазрэнні ў антыцарскай змове. Аўтар класіцыстычных вершаў, публіцыстычнага «Адказу» (1792). Ёсць меркаванні, што Х. напісаў за Агінскага большасць асветніцкіх паэтычных твораў, апублікаваных пад псеўданімам Слонімскі грамадзянін у зборніках «Гістарычныя і маральныя аповесці» (1782) і «Байкі і не-байкі» (1788). Перакладаў на польскую мову творы Гарацыя, Ж.Расіна, Ж.Дэліля, П.Карнэля.

***Адам Мальдзіс.***

**Харашкевіч** (Хорошкевич) Ганна Леанідаўна (н. 28.3.1931, Масква), расійскі гісторык. Д-р гіст. навук (1976). Скончыла Маскоўскі ун-т (1954). З 1954 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН СССР (з 1967 Ін-т гісторыі СССР АН СССР, з 1992 Ін-т рас. гісторыі Рас. АН), з 2001 — Ін-та славяназнаўства Рас. АН (вядучы навук. супрацоўнік). Вывучае гісторыю, гістарыяграфію, праблемы крыніцазнаўства гісторыі Расіі, Украіны і Беларусі, міжнар. адносіны эпохі феадалізму. Складальнік зборніка дакументаў па гісторыі Полацкай зямлі «*Полацкія граматы*» (вып. 1—5, 1977—85). Адна з аўтараў 12-томнай «Гісторыі СССР са старажытных часоў да нашых дзён» (т. 2, 1966), кніг «Старажытнаруская спадчына і гістарычныя лёсы ўсходняга славянства» (1982). «Гісторыя Еўропы з найстаражытных часоў да нашых дзён» (т. 2, 1992), «Гісторыя Масквы з найстаражытных часоў да нашых дзён» (т. 1, 1997). Разам з С.М.Каштанавым падрыхтавала «Метадычныя рэкамендацыі па выданні і апісанні Літоўскай метрыкі» (1986). Удзельнічала ў выданні твораў С.Герберштэйна, Міхалона Літвіна, Ю.Відэкінда.

*Тв.*: Торговля Великого Новгорода с Прибалтикой и Западной Европой в XIV—XV вв. М., 1963; Русское государство в системе международных отношений конца XV—начала XVI в. М., 1980; Россия времени Ивана Грозного. М., 1982 (з А.А.Зіміным); Символы русской государственности. М., 1993; Герб и флаг России (X—XX века). М., 1997 (у сааўт.); Русь и Крым: От союза к противостоянию. Конец XV—начало XVI в. М., 2001; Россия в системе международных отношений середины XVI в. М., 2003.

*Лит.*: От Древней Руси к России нового времени: Сб. статей. К 70-летию Анны Леонидовны Хорошкевич. М., 2003 (змешчана бібліяграфія прац Х.).

**Харкевіч** (Charkiewicz) Валяр'ян (1890—24.6.1950), гісторык. Д-р філасофіі (1928). Скончыў Віленскі ун-т. Даследаваў гісторыю рэліг. адносін у Літве і Беларусі ў 16—19 ст., ролю магнатаў у гісторыі ВКЛ. Быў звязаны з кансерватыўным лагерам Зах. Беларусі, супрацоўнічаў у віленскай газ. «Słowo». Удзельнічаў у верасснёўскай кампаніі 1939, быў узяты ў сав. палон. З восені 1941 у польскай арміі ген. У.Андэрса, у складзе якой перайшоў на Блізкі Усход. Узначальваў Гіст. бюро і музей арміі. Пасля вайны жыў у Лондане. Рэдактар час. «Kwartalnik Historyczny na Wschodzie» (сш. 1—2, 1944—45). Вывучаў удзел палякаў у 2-й сусветнай вайне.

*Тв.*: Scypion ruski, Konstanty Iwanowicz książe Ostrogski... Wilno, 1929; Przyczynek do dziejów sióstr Miłosierdzia w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Akademja, której nie zorganizowano: (Z dziejów unickiego szkolnictwa duchownego) // Там жа. 1936. R. 11; Likwidacja unii kościelnej na Litwie i Białorusi // Kwartalnik Historyczny na Wschodzie. 1945. Z. 2.

**Харламповіч** Канстанцін Васілевіч [18(30).7.1870, в. Рагачы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ.—23.3.1932], беларускі і расійскі гісторык, педагог. Чл.-кар. Петраградскай АН (1916), акад. АН Украіны (1919). З сям'і правасл. святара. Скончыў Віленскае духоўнае вучылішча і Літоўскую духоўную семінарыю (1890), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1894). Навук. погляды Х. фарміраваліся пад уплывам М.В.*Каяловіча*. Выкладаў латынь у Казанскай духоўнай семінарыі (з 1895), з 1899 прыват-дацэнт, у 1909—21 праф. Казанскага ун-та. Даследаваў гісторыю правасл. царквы ў Расіі, Беларусі і Украіне, жыццё і дзейнасць яе вядомых дзеячаў, асвету ў Расіі і Беларусі 16—17 ст., становішча бел. і укр. народаў у Рэчы Паспалітай, узаемасувязі ўсх.-слав. л-р. За працу «Заходнярускія праваслаўныя школы XVI і пачатку XVII ст. ...» (Казань, 1898) атрымаў Уваpаўскую і Карпаўскую прэміі. Знайшоў невядомую працу кн. А.Курбскага на польскай мове. Друкаваўся на старонках выданняў «Христианское чтение», «Киевская старина», «Волынские епархиальные ведомости», «Литовские епархиальные ведомости», «Ученые записки Казанского университета» і інш. Валодаў дарам таленавітага палеміста і крытыка. Яго працы напісаны з ідэалістычных пазіцый, змяшчаюць каштоўны фактычны матэрыял.

*Тв.*: К истории западнорусского просвещения: Виленская братская школа в первые полвека своего существования. Вильна, 1897; Острожская православная школа. Киев, 1897; Западнорусские церковные братства и их просветительная деятельность в конце XVI и начале XVII в. [СПб.], 1899; Афиноген Крыжановский: (Из истории культурного влияния Западной Руси на Восточную в XVII в.) // Сб. статей в честь Д.А.Корсакова. Казань, 1913.

*Літ.*: Черепица В.Н. Преодоление времени. Мн., 1996; Його ж. М.О.Коялович. Гродно, 1998.

***Валерый Чарапіца.***

**харугва** (ад манг. оронго — знак, сцяг), 1) назва сцяга ў старажытнай Русі і ВКЛ. 2) Царкоўны сцяг з выявай Ісуса Хрыста або святых, што мацуецца вертыкальна на доўгім дрэўку з дапамогай гарызантальнай перакладзіны. Носяць у час хрэснага ходу. 3) У сярэдневяковай Польшчы і ВКЛ — асн. арганізацыйна-тактычная адзінка рыцарскай (шляхецкай) кавалерыі. Да 15 ст. складалася з *коней* (копій) — рыцараў са сваімі збраяносцамі і *пахолкамі*. Існавалі Х. земскія, у склад якіх уваходзіла рыцарства пэўнай зямлі, родавыя, якія аб'ядноўвалі прадстаўнікоў аднаго роду, і надворныя, што выконвалі ролю гвардыі манархаў і магнатаў. З 16 ст. ў шляхецкай кавалерыі Х. пачалі называць б. *роту*. Звычайна складалася з 30—200 чал. на чале з афіцэрам у рангу ад *харужага* да палкоўніка. У Х. ўваходзілі капійнікі і стральцы, пазней з'явіліся Х. гусарскія, панцырныя, пяцігорскія, лёгкія (татарскія, валошскія). Да сярэдзіны 18 ст. Х. фарміраваліся таварыскай сістэмай (таварыш — шляхціц, які выстаўляў почат — некалькіх пахолкаў, потым 1—2 пачатавых; у лёгкай кавалерыі шляхціцы служылі гал. чынам без суправаджэння). У 16—17 ст. Х. часам называлі пяхотныя роты польскага і венгерскага тыпу.



**харужы**, 1) ніжэйшы афіцэрскі ранг у войску ВКЛ. 2) Вял. Х. ВКЛ — шляхецкі ўрад (пасада) у ВКЛ, вядомы з канца 15 ст. Яго абавязкам было нашэнне велікакняжацкай харугвы ў час вял. цырымоній і знаходжанне з ёю пры манарху ў час вайсковых дзеянняў. 3) Надворны (дворны) Х. ВКЛ — намеснік вял. Х. ВКЛ, згадваецца з пач. 16 ст. 4) Паветовы Х. — вайсковы кіраўнік шляхты павета ў ВКЛ. Збіраў шляхту павета для ўдзелу ў войнах, праводзіў яе попісы (гл. *Попісы войска*). Прызначаў сабе ў дапамогу паветовых *ротмістраў*. Быў адным з вышэйшых паветовых шляхецкіх урадаў, пасля смерці Х. часам збіраліся спец. соймікі для правядзення выбараў новага Х.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**хасідызм** (ад стараж.-яўр. хасід — набожны), рэлігійна-містычны рух у іудаізме. Узнік у 1-й пал. 18 ст. на Валыні, Падоллі, у Галіцыі і пашырыўся па ўсёй Рэчы Паспалітай, а пазней і сярод сусветнага яўрэйства. У аснове веравучэння Х. — спалучэнне элементаў рабінізму і Кабалы (іудзейскай містыкі). Узнікненне Х. абумоўлена прыгнечаным станам і сац. неарганізаванасцю цёмных яўрэйскіх працоўных мас гэтых тэрыторый і вял. пакутамі, што выпалі на іх долю ў 2-й пал. 17—пач. 18 ст. ў выніку шматлікіх войнаў і ганенняў (першым штуршком стала паўстанне Б.Хмяльніцкага на Украіне). Масы малапісьменнай яўрэйскай беднаты страцілі духоўную апору і спадзяваліся знайсці яе ў містыцызме. Заснавальнік Х. — Ізраіль Бешт (1700—60; прозвішча створана са слоў «Баал-Шэм-Тоў», што значыць «чалавек добрага імя» ці «добры цудатворца»), які прапанаваў дэзарыентаваным людзям містычны спосаб, каб пазбегнуць роспачы і заняпаду без скрупулёзнага выканання шматлікіх абрадаў і глыбокага вывучэння Талмуда, як таго патрабавалі рабінска-кагальныя вярхі. Ён прапагандаваў ідэю аб цадзіках (праведніках), якія адораны звышнатуральнай сілай, знаходзяцца ў пастаянных зносінах з Богам, могуць цудоўна вылечваць сваім дотыкам і абараняць людзей нават ад божага наканавання. Х. звернуты на пачуццё і эмоцыі простага і неадукаванага чалавека (менавіта такія яўрэі пераважалі на Украіне), а не на розум і інтэлект.

У Беларусі Х. узнік у 1770-я г. і адразу сустрэў супраціўленне з боку прыхільнікаў традыцыйнага рабіністычнага іудаізму (хасіды называлі іх «міснагдым» — праціўнікі, апаненты). У адрозненне ад яўрэяў Украіны яўрэі Беларусі мелі высокі ўзровень рэліг. адукаванасці і арганізацыі абшчыннага жыцця. Першым прапаведнікам Х. стаў рабін з прыгарада Пінска Карлін (Кароліна) Аарон Карлінскі, які заснаваў тут першую хасідскую абшчыну. Гал. праціўнікам Х. стаў талмудыст Ілья Вільнер (1720—97), больш вядомы як Віленскі Гаон («Геній»), які меў бясспрэчны аўтарытэт сярод яўрэяў бел.-літ. зямель. Па ініцыятыве Гаона і шклоўскіх рабіністаў у 1772—80 хасідаў адлучылі ад абшчын у Берасці, Гародні, Пінску, Слуцку, выганялі з гарадоў. Аднак пад кіраўніцтвам Саламона Карлінскага і Мендэля Віцебскага ствараліся новыя хасідскія абшчыны. У гэты перыяд пачаў дзейнасць Шнэур-Залман Борухаў з Лёзна, духоўны правадыр бел. хасідаў, родапачынальнік дынастыі Шнэерсонаў. Ён правёў рэформы ў рэліг. дагматыцы і абраднасці і стаў заснавальнікам новага, больш рацыянальнага кірунку ў Х. — Хабада (абрэвіятура ад слоў «хохма» — мудрасць, «біна» — разуменне, «даат» — веды). Крыніцай веры Шнэур-Залман лічыў не пачуццё, а розум. Свае ідэі ён адлюстраваў у многіх творах, найб. значная кніга — «Танія» («Збор прамоў). Спробы Шнэура-Залмана прымірыцца з Гаонам не мелі поспеху. Буйныя цэнтры Х. ўзніклі ў Століне, Ляхавічах і інш. З далучэннем бел. зямель да Рас. імперыі хасіды атрымалі больш свабоды для прапаганды свайго вучэння. Аднак у 1798 Шнэур-Залман па даносе быў арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць у Пецярбургу. Яго абвінавацілі ў стварэнні шкоднай секты, адпраўцы грошай у Палесціну з паліт. мэтамі (магчыма, для Напалеона Банапарта). У час допытаў Шнэур-Залман зрабіў добрае ўражанне на сенатараў і імператара Паўла I і быў вызвалены. Пасля гэтага хасіды сталі выбірацца ў кагалы і трапілі ў праўленне Бел. сінагогі (кагальнай акругі). Нягледзячы на новы кароткачасовы арышт Шнэура-Залмана (1800—01), у 1804 урад выдаў «Палажэнне», у якім афіцыйна прызнаў існаванне ў рас. яўрэйстве 2 кірункаў, узаконіў іх, і Х. заняў легальнае месца ў рэліг. жыцці яўрэяў Беларусі.

*Літ.*: Бершадский С. Литовские евреи. СПб., 1883. С. 131—134: Дубнов С.М. История хасидского раскола // Восход. 1891. № 10; Герасімава І.П. Прадпасылкі і станаўленне хасідызму на Беларусі // Нацыянальная палітыка расійскага самадзяржаўя на Беларусі ў канцы XVIII—пачатку XIX ст. Мн., 1995.

***Іна Герасімава.***

**хаўтурныя працэсіі** (лац. pompa funebris), традыцыйныя пахавальныя цырымоніі ў беларускіх гарадах у 16—18 ст., звязаныя з ушанаваннем нябожчыка. Асн. ўдзельнікамі Х.п. былі гар. *цэхі*, якія павінны былі ўдзельнічаць у пахаванні паводле сваіх статутаў або наймаліся. У прызначаны час па сігнале бубна (у 18 ст. гарматы) рамеснікі ў складзе сваіх цэхаў збіраліся на ратушнай плошчы. Апранутыя ў адмысловае адзенне, з цэхавымі сцягамі, зброяй, вял. свечкамі, яны шыхтаваліся ў строга заведзеным парадку, які залежаў ад статуса цэха ў гар. грамадстве. На могілках у гонар нябожчыка святар рабіў прамову. Некаторыя з іх друкаваліся. У правасл. гараджан існавала практыка класці ў труну своеасаблівую ахоўную грамату — «Ліст да св. Пятра», у якім ухваляліся цноты і набожнасць нябожчыка. Калі ён быў шляхціцам, над труною, «паводле ліцвінскага звычаю», ламалі коп'і, інш. атрыбуты шляхецтва і ўлады, калі згасаў род — разбураўся фамільны герб. У царкве (касцёле) у памяць нябожчыка вывешваўся пахавальны сцяг. Пасля Х.п., згодна бел. звычаю, адбываліся памінкі (кансаляцыя, «абед па нябожчыку»). Кансаляцыю ладзілі і рамеснікі, якія ўдзельнічалі ў працэсіі. Склад удзельнікаў Х.п. сведчыў пра традыцыі талерантнасці. Цэхавыя рамеснікі — хрысціяне розных канфесій — сумесна хавалі членаў цэхаў, іх жонак і дзяцей. Імша абавязкова адбывалася і ў касцёле, і ў царкве. Калі Х.п. ладзілася ў гонар магната, набажэнства адбывалася нават у яўрэйскіх бажніцах і мячэцях. Росквіт звычаю Х.п. прыпадае на 18 ст. Пышныя цырымоніі адбываліся пры пахаванні М.С.Вішнявецкага (Гародня, 1744), Г.Ф.Радзівіла (Белая, Мір, Нясвіж, 1760), М.К.Радзівіла (Нясвіж, 1763) і інш. Ускладнілася атрыбутыка Х.п.: на шляху працэсіі будаваліся трыумфаль-

ныя аркі, выконваліся спецыяльна напісаныя музычныя творы, пахаванне суправаджалася гарматным салютам, часам адбываліся тэатральныя пастаноўкі, у касцёлах узводзілі спец. дэкаратыўныя пабудовы з дрэва і гіпсу. Стылістыка Х.п. была арыентавана на антычную спадчыну, што сведчыла пра ўплыў еўрапейскага Адраджэння. Феномен Х.п. з выкарыстаннем мастацкіх традыцый Рэнесансу і барока займае выдатнае месца ў гісторыі культуры Беларусі.

*Літ.*: Клименко Ф.В. Западнорусские цеха XVI—XVIII вв. Киев, 1914; Chrościcki J.A. Pompa funebris. Warszawa, 1974; Дадзіёмава В. Заўжды патрэбная: Музыка ў гарадскіх урачыстасцях XVIII ст. // Мастацтва Беларусі. 1989. № 1.

***Андрэй Катлярчук.***

**Хацінская бітва 1621.** Адбылася ў вер.-кастр. 1621 каля замка Хацін на Днястры (цяпер г. Хацін Чарнавіцкай вобл., Украіна) паміж войскамі Рэчы Паспалітай з аднаго боку і Турцыі і Крымскага ханства з другога. Вайну пачала ў 1620 Турцыя з мэтай захопу ўкр. і польскіх зямель. У вер.—кастр. 1620 туркі разбілі пад Цацорай польскае войска, у склад якога ўваходзілі ўкр. рэестравыя казакі. Увесну 1621 турэцкае войска (каля 150 тыс. чал.) накіравалася ў Малдову, да яго далучылася каля 60 тыс. крымскіх татар. Насустрач ім рушыла аб'яднанае войска Польшчы і ВКЛ (каля 30 тыс. чал., у т.л. з ВКЛ каля 11 тыс. чал.) пал камандаваннем вял. гетмана ВКЛ Я.К.Хадкевіча (гл. ў арт. *Хадкевічы*). У вер. 1621 Хадкевіч размясціў сваю армію ўмацаваным лагерам каля закінутага Хацінскага замка такім чынам, каб Днестр адрэзаў шляхі да адступлення. Да яго далучыліся ўкр. казакі (каля 40 тыс. чал.) пад камандаваннем гетмана П.Канашэвіча-Сагайдачнага. 2.9.1621 пад Хацін падышла турэцкая армія на чале з султанам Асманам II і адразу атакавала лагер. Штурмы паўтараліся на працягу месяца, найб. значныя адбыліся 2, 4, 7, 15, 28 верасня. Войскі Рэчы Паспалітай рабілі ўдалыя контратакі і вылазкі. 24.9.1621 памёр Хадкевіч, які перадаў камандаванне войскам С.Любамірскаму. У баях, якія доўжыліся да 3.10.1621, туркі панеслі вялізныя страты (да 80 тыс. чал.) і былі вымушаны прызнаць паражэнне. 9.10.1621 заключаны мір, які ўстанавіў дзярж. граніцу на Днястры



**Хацінская бітва 1621.** Мастак Ф.Смуглевіч. Да 1797.

і гарантаваў Рэчы Паспалітай бяспеку ад турэцкіх і татарскіх нападаў.

*Літ.*: Чарняўскі М. Правадыр крылатых вершнікаў: Ян Кароль Хадкевіч. Мн., 1998; Podhorodecki L., Raśba N. Wojna chocimska 1621 r. Kraków, 1979.

***Валерый Пазднякоў.***

**Хацінская бітва 1673.** Адбылася 11 ліст. каля замка Хацін на Днястры (цяпер г. Хацін Чарнавіцкай вобл., Украіна) паміж войскам Рэчы Паспалітай над камандаваннем вял. кароннага гетмана Я.Сабескага (каля 40 тыс. чал.) і войскам Турцыі на чале з Гусейнам-пашою (каля 35 тыс. чал.) у час вайны 1672—76. У выніку бітвы знішчана турэцкая армія, якая атабарылася за ўмацаваннямі старога лагера войска Рэчы Паспалітай (застаўся з часоў *Хацінскай бітвы 1621*). Перамога ў бітве садзейнічала Сабескаму ў абранні яго на трон Рэчы Паспалітай (1674).

*Літ.*: Codello A. Litwa wobec wojny z Turcją 1672—1676 r. // Studia i Materjały do Historii Wojskowości. 1968. T. 14, cz. 1.

**Хвойнікі** (цяпер Хойнікі, горад, цэнтр Хойніцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка Кіеўскага ваяв. Вядомы з 1512 як вёска. Належалі Вішнявецкім, Шуйскім, Прозарам. З сярэдзіны 16 ст. мястэчка. Уваходзілі ў Брагінскую вол., з канца 17 ст. цэнтр Хвойніцкай вол. У 1-й пал. 17 ст. Вішнявецкія пабудавалі ў мястэчку замак. Займаў невял. пясчаную дзюну ў забалочанай пойме р. Квеся. Выцягнутая з Пн на Пд авальная пляцоўка замка (35 х 25 м) была абкружана запоўненым вадой ровам, які з боку мястэчка меў шырыню 28—30 м, з інш. бакоў — 15—18 м. Сувязь з мястэчкам ажыццяўлялася па дамбе і драўляным мосце. На земляным вале стаялі драўляныя абарончыя сцены-гародні. Мелася таксама ўязная вежа з варотамі. Паводле інвентару за 1721 замак быў абкружаны парканам, меў 2-павярховую ўязную вежу, зрубленую з брусоў і накрытую дранкай. 1-ы паверх вежы займалі ўязны праезд з варотамі і 2 памяшканні, адведзеныя пад турму, 2-і — невял. зала са шклянымі вокнамі ў драўляных рамах. На ўзроўні 2-га паверха, укругавую, ішоў балкон. На падворку замка знаходзіліся гасп. пабудовы. Замак існаваў да 18 ст. У 1705 на сродкі кн. Шуйскага пабудавана царква. У 1763 замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы. У канцы 18 ст. І.Прозар пабудаваў палац. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Х. ў складзе Рас. імперыі.

**Хейс**, Гейс (Heuss) Стафан, сакратар пасольства Свяшчэннай Рымскай імперыі ў Расію ў 1593. Склаў дзённік пасольства, якое рухалася з Варшавы праз Вільню ў Маскву. Апісаў бел. гарады і мястэчкі: Гародню, Маладзечна, Лагойск, Барысаў, Начу, Оршу, Дуброўна. Адзначыў спусташэнні, прычыненыя Інфлянцкай вайной 1558—82, даў звесткі пра забудову, замкі, прыродныя ўмовы Беларусі.

*Тв.*: Рус. пер. — Описание путешествия в Москву Николая Варкоча, посла римского императора, в 1593 г. // Проезжая по Московии: (Россия XVI—XVII вв. глазами дипломатов). М., 1991.

**Хілінскі** Багуслаў Самуэль (?—1668), дзеяч кальвінісцкай царквы. Мяркуецца, што нарадзіўся ў в. Святаазёры каля Сейн у Гарадзенскім пав. Вучыўся ў Кейданскай кальвінісцкай гімназіі. У 1652 прызначаны катэхістам у Біржы. У 1654 выехаў на вучобу ва ун-т у г. Франекер (Фрызія), дзе правёў год. З 1657 жыў у Англіі, у Оксфардзе 2 гады з дапамогай мясц. вучоных перакладаў Біблію на літ. мову. У 1661 збіраў грошы ў ВКЛ на выданне свайго перакладу. Біблія друкавалася ў Лондане ў 1662—63, аднак праца была спынена паводле рашэння кальвінісцкага сінода ВКЛ, не згоднага з перакладам Х. Ён безвынікова шукаў падтрымку ў літ. і англійскіх пратэстантаў, памёр у нястачы ў Англіі.

*Тв.*: Biblia litewska Chylińskiego. T. 1—3. Poznań, 1958—84.

**Хлябцэвіч** Іван Адрэевіч (1857, в. Сядзельнікі Ваўкавыскага пав.—25.7.1919), беларускі гісторык. Скончыў правасл. Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Працаваў выкладчыкам Жыровіцкага духоўнага вучылішча, адначасова загадваў б-кай Жыровіцкага Успенскага мужчынскага манастыра, дзе ўпарадкаваў стараж. рукапісы. З 1897 святар у в. Кленікі Бельскага пав. У 1-ю сусветную вайну з 1915 у бежанстве ў г. Сызрань (Расія). Аўтар публікацый па царк. гісторыі.

*Тв.*: Краткий исторический очерк образа Жировичского монастыря (анонимно). [Вильна, б.г.]; Иосафат Жарский, провинциал Литовских базилианских монастырей... Гродно, 1897; Жировичское братство Милосердия Пресвятой Девы Марии. Вильна, 1900.

*Літ.*: Хлябцэвіч Я. Біяграфія бацькі... // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1996. № 1 (5).

***Віталь Скалабан.***

**Хмара** Адам Міхал Станіслаў (22.12.1720—9.6.1805), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Менскі лоўчы з 1748, падчашы з 1756, сакратар малой пячаткі ВКЛ у 1752—60, віцэ-інстыгатар ВКЛ у 1760—65, інстыгатар ВКЛ у 1765—79, менскі кашталян у 1779—84 і ваявода з 1784; чл. Пастаяннай Рады з 1783. У 1761—82 некалькі разоў выбіраўся паслом на соймы, быў маршалкам Трыбунала ВКЛ у 1785. Кавалер ордэнаў св. Станіслава і Белага Арла, рас. ордэнаў. У 1755 атрымаў ад падканцлера ВКЛ М.Сапегі за службу ў якасці яго падскарбія (1743—52) і сакратара маёнтак Сёмкаў Саламярэцкі (цяпер в. Сёмкава) каля Менска. Вызначаўся добрым гаспадараннем, надрукаваў працу па кіраванні маёнткам — «Інструкцыя для аканома». Да 1780 пабудаваў палац, дзе меліся б-ка, архіў, збраёўня.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Хмяльніцкі** Багдан (Зіновій) Міхайлавіч [каля 1595—27.7(6.8).1657], гетман Украіны, дзяржаўны дзеяч, палкаводзец. Паходзіў з дробнай правасл. укр. шляхты. Адукацыю атрымаў у езуіцкім калегіуме ў Львове. Удзельнічаў у паходах супраць туркаў і крымскіх татар, у казацкіх паўстаннях. У рэестравым казацкім войску быў вайсковым пісарам, пасля паўстання 1637—38 чыгірынскі сотнік. У 1647 арыштаваны за падрыхтоўку новага паўстання супраць Польшчы, але пасля вызвалены і ўцёк у Запарожскую Сеч, дзе быў выбраны гетманам запарожскага войска. У 1648 заключыў саюз з крымскім ханам супраць Польшчы і пачаў баявыя дзеянні. У маі 1648 у бітвах на Жоўтых Водах і каля Корсуня разбіў польскае войска, пасля чаго на Украіне пачалася вызваленчая вайна. У пачатку вайны ў 1648—49 Х. накіроўваў на Беларусь казацкія атрады (загоны). Да іх далучаліся сяляне і мяшчане. Дзеянні загонаў на Беларусі звязвалі войска ВКЛ і не давалі яму магчымасці ўварвацца на Украіну з Пн. Дальняй мэтай Х. было далучэнне Беларусі (найперш паўднёвай і ўсходняй) да гетманскай Украіны. У выніку перамог казацка-сял. войска на Украіне была створана дзяржава на чале з гетманам і казацкім кіраўніцтвам на тэрыторыі, падзеленай на палкі і сотні, з самакіраваннем гарадоў і сёл. Захаваўся феад. лад і прыгнёт сялян у маёнтках, якія перайшлі ад польскай шляхты да ўкр. і казацкай старшыны. Напачатку Х. быў прыхільнікам аўтаноміі Украіны ў складзе Польскага каралеўства, гэты статут быў замацаваны Збораўскім дагаворам 1649. Пасля, каб захаваць уладу і забяспечыць панаванне сваёй дынастыі гетманаў Хмяльніцкіх, Х. змяніў паліт. арыентацыю. Пераяслаўская рада 1654 зацвердзіла пагадненне з царом Аляксеем Міхайлавічам аб уваходжанні Украіны ў склад Рас. царства як аўтаномнай дзяржавы. Калі пачалася *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, казацкія войскі дзейнічалі на Беларусі побач з маскоўскімі. Аднак ужо ў 1656 выявіліся супярэчнасці паміж Х. і царскім урадам, які не прытрымліваўся пагаднення аб аўтаноміі Украіны. Х. пачаў перагаворы са Швецыяй і Малдовай з мэтай замацаваць сваё становішча і забяспечыць сваім сынам пераемнасць улады на пасадзе гетмана. Пасля заключэння *Кейданскай уніі 1655* ён падтрымліваў кантакты з кіраўніком кальвінісцкай групоўкі ў ВКЛ Б.*Радзівілам*, якому 7.5.1656 выдаў універсал на недатыкальнасць Слуцка і Слуцкага княства ад дзеянняў казацкіх атрадаў, слуцкім купцам дазвалялася свабодна гандляваць на Украіне. *Радноцкім дагаворам 1656* паміж Швецыяй, Трансільваніяй, Брандэнбургам і Х. прадугледжвалася расчляненне ВКЛ і адыход усх. Беларусі пад уладу гетмана. Х. ўвайшоў у гісторыю як дзярж. дзеяч, які садзейнічаў адраджэнню ў сярэдзіне 17 ст. Украінскай дзяржавы.

*Літ.*: Документы Богдана Хмельницкого, 1648—1657. Киев. 1961; Грицкевич А.П. Універсал Богдана Хмельницького місту Слуцьку (1656 р.) // Укр. іст. журн. № 1970. № 12; Kaczmarczyk J. Bohdan Chmielnicki. Wrocław, 1988; Замлинский В. Богдан Хмельницкий. М., 1989; Крип'якевич І.П. Богдан Хмельницький. 2 вид. Львів, 1990; Смолій В.А., Степанков В.С. Богдан Хмельницький: Соціал.-політ. портрет. Київ, 1993; Іх жа. Богдан Хмельницький: Хроніка життя да діяльності. Київ, 1994; Доба Богдана Хмельницького: (До 400-річчя від дня народження великого гетьмана). Київ, 1995.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Хогенберг** (Hogenberg) Франц (да 1540, г. Мехельн, Фландрыя—1592), фламандскі гравёр, мастак, картограф. Вучыўся і працаваў у Англіі, Антверпене, супрацоўнічаў з А.*Артэліем*, гравіраваў карты для 1-га геаграфічнага атласа «Агляд шара зямнога» (1570), у т.л. *Віда—Ляцкага карту*. У 1570 уцёк ад рэліг. ўціску ў Кёльн. У 1572 разам з кёльнскім тэолагам Г.Браўнам заснаваў шматтомную серыю «Гарады зямнога шара» (апошні, 6-ы том выйшаў у

1618) — збор выяў найважнейшых гарадоў свету, дзякуючы якому зах.-еўрапейскі чытач упершыню азнаёміўся з выглядам некаторых гарадоў ВКЛ: Гародні, Вільні, Смаленска, т.зв. Жыгімонтавым планам Масквы і інш. На картах і планах, створаных Х. ці пад яго рэдакцыяй, Белая Русь выступае як сінонім Маскоўскай дзяржавы.

*Літ.*: Michow H. Die altesten Karten von Russland: Ein Beitrag zur historischen Geographie. Hamburg, 1884; Борисовская Н.А. Старинные гравированные карты и планы XV—XVIII вв. М., 1992; Белы А. Хроніка *Белай Русі*: Нарыс гісторыі адной геагр. назвы. Мн., 2000.

***Алесь Белы.***

**Хойнікі,** горад, цэнтр Хойніцкага р-на, Рэспубліка Беларусь, гл. *Хвойнікі*.

**Холмскі павет,** адм.-тэр. адзінка ў 16—18 ст. ў Польскім каралеўстве. Цэнтр — г. Холм (цяпер Хэлм, Рэспубліка Польшча). Бярэ пачатак з Холмскай зямлі ў складзе *Галіцка-Валынскага княства*. Пасля абрання там на княжанне *Любарта* (1340) Холмская зямля ў складзе ВКЛ, у 1377—87 у Венгрыі, з 1387 у Польшчы. У 1430 у склад зямлі ўключаны тэр. Верхняй Прыпяці. З пач. 16 ст. Холмская зямля ў складзе Рускага ваяв., падзялялася на Холмскі і Краснастаўскі паветы. У склад Х.п. ўваходзілі землі Зах. Палесся, у т.л. с. Радастава, Павіцце, Лелікава і інш. (паўд. частка сучасных Кобрынскага і Драгічынскага р-наў Беларусі). З 13 ст. існавала правасл. Холмская епархія (з 1596 уніяцкая), з 14 ст. — каталіцкае Холмскае біскупства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) зах. частка Х.п. далучана да Аўстрыйскай імперыі, усх. частка з папрыпяцкімі землямі — да Рас. імперыі.

*Літ.*: Козій А.М. Історико-географічна характеристика Холмської землі // Вісн. Львів. ун-ту. Сер. іст. 1992. Вип. 28; Czarnecki W. Osadnictwo ziemi chełmskiej XIV—XVI wieku w historiografii i źródłach // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. 1992. № 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Хоцімск** (цяпер гарадскі пасёлак, цэнтр Хоцімскага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Мсціслаўскім ваяв., на р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе рэк Альшоўка і Жадунь. Заснавана паміж 1695 і 1700 як слабада. Упершыню згадваецца ў 1709. У 1714 у Х. 66 дымоў, млын, карчма, царква. 19.10.1714 паводле універсала канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла на левым беразе Беседзі насупраць вёскі Х. закладзена мяст. Радзівілаў; у 1727 у ім 148 дымоў, 3 вуліцы, у 1747 царква Раства Багародзіцы са званіцай, сінагога, карчма, турма; 8 вуліц, 116 дымоў. З сярэдзіны 18 ст. Радзівілаў — цэнтр Бярозаўскай (Хоцімскай) воласці Крычаўскага староства, у крыніцах згадваецца як мястэчка Х. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Радзівілаў у складзе Рас. імперыі, перайменаваны ў Х., належаў Р.А.Пацёмкіну.

*Літ.*: Новикова Г. Хотимск // Гісторыя: прабл. выкладання. 1998. № 1; Мяцельскі А.А. Хоцімск: да пытання аб часе ўзнікнення // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1999. № 4; Яго ж. Лучыцкая воласць XV—XVIII стст. // Там жа. 2000. № 4.

***Андрэй Мяцельскі.***

**хранограф** (ад грэч. chranos час + gráphó пішу), зводны агляд усеагульнай гісторыі ў эпоху феадалізму. Прызначаўся для пазнавальнага, павучальнага і займальнага чытання. Як жанр узнік у Візантыі. Візантыйскія Х. (Іаана Малалы, 6 ст., Георгія Амартала, 9 ст.) былі вядомы ў Кіеўскай Русі і паслужылі крыніцай рус. Х. (1-я рэдакцыя пач. 16 ст., «заходнеруская» — сярэдзіны 16 ст.). На Беларусі ў 17—18 ст. была папулярная напісаная па-беларуску буйная кампіляцыя *«Вялікая хроніка»*, дзе ў белетрызаванай форме выкладзена сусветная гісторыя ад біблейскіх часоў да 17 ст., змешчаны розныя міфы, паданні, дакладныя гіст. звесткі і літ. творы. Жанравыя рысы Х. маюць таксама *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі»* М.Стрыйкоўскага, *«Хроніка Еўрапейскай Сарматыі»* А.Гваньіні, і асабліва *«Хроніка ўсяго свету»* М.Бельскага, што бытавалі і ў бел. перакладах. Займальнае апісанне падзей, яркія характарыстыкі гіст. асоб, эмацыянальна-вобразны стыль выкладу, шырокае выкарыстанне ў Х. вымыслу не толькі прыцягвалі чытачоў да гэтых твораў, але і паўплывалі на развіццё гіст. прозы, на станаўленне мастацкай белетрыстыкі новага часу.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Храпавіцкі** Ян Антоній (1.10.1612, в. Падбярэззе каля Віцебска—3.11.1685), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, аўтар дзённіка. З роду *Храпавіцкіх*. Скончыў калегіум Навадворскіх у Кракаве, вучыўся ў Лейдэне і Падуі. У 1637 перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва, што дало яму магчымасць займацца грамадскай і паліт. дзейнасцю і зрабіць кар'еру. Смаленскі харужы з 1650, падкаморы з 1660, ваявода віцебскі з 1669; стараста дарагабужскі, азярыцкі, маркаўскі, адміністратар Магілёўскай эканоміі ў 1684. Сакратар караля Яна II Казіміра Вазы. Актыўны ўдзельнік паліт. жыцця Рэчы Паспалітай, удзельнічаў у працы 24 соймаў (на 17 быў абраны паслом), маршалак соймаў 1665 і 1668, уваходзіў у шматлікія соймавыя камісіі, выбіраўся ў Скарбовы трыбунал ВКЛ. У 1640—50-х г. удзельнічаў у працы камісіі па размежаванні Веліжскай і Усвяцкай валасцей з Невельскай, па выплаце даўгоў смаленскаму гарнізону і войску ВКЛ. З 1661 удзельнічаў у мірных перагаворах з Расіяй, у падпісанні *Андросаўскага перамір'я 1667*, у перагаворах 1674, 1677—78. Пакінуў дзённік за 1656—85 — каштоўную гіст. крыніцу, дзе ёсць звесткі пра паліт. жыццё Рэчы Паспалітай, соймы, паўсядзённае жыццё заможнай шляхты, звычаі і норавы. Упершыню ўрыўкі з дзённіка пад назвай «Збор цікавых звестак часоў панавання Яна Казіміра і Міхала Вішнявецкага» апублікаваны М.Стацэвічам у Вільні ў 1787. Фрагменты за 1668—72 выдадзены Ю.Русецкім у 1845, а за 1656—69 — Т.Васілеўскім у 1978—88.


Я.А.**Храпавіцкі**.

*Тв.*: Diariusz wojewody witebskiego Jana Antoniego dwóch imion Chrapowickiego... Warszawa, 1845: Diariusz. Cz. l—2. Warszawa. 1978—88.

***Валерый Пазднякоў.***

**Храпавіцкія**, Даніловічы-Храпавіцкія, шляхецкі род герба «Газдава». Родапачынальнік віцебскі харужы (з 1562) і падкаморы (з 1576) Фёдар Данілавіч у 1-й пал. 16 ст. ажаніўся з Аленай Сямёнаўнай і ў пасаг за ёю атрымаў маёнтак Храпавічы (Віцебскі пав.), ад назвы якога ўтворана прозвішча. Імя па бацьку Фёдара ў далейшым прадстаўнікі роду скарыстоўвалі ў якасці прыдомка. З сярэдзіны 17 ст. адна лінія роду Х. у Расіі. Найб. вядомыя:

Іван Фёдаравіч, сын Фёдара Данілавіча, харужы віцебскі з 1589. У шлюбе з Аленаю Глябовіч, кашталянкаю менскаю, меў 5 сыноў, ад якіх пайшоў разгалінаваны род.

Ян Антоній (1.10.1612—3.11.1685), сын Крыштофа, стольніка віцебскага, гл. *Храптовіч* Я.А.

Францішак (1614—25.4.1685), брат Яна Антонія. У 1638 уступіў у манаскі ордэн бернардзінцаў. Выкладаў у навуч. установах ордэна ў Вільні, Гародні, узначальваў кляштары ў Сапежыне (Друі) і Будзе. У 1677—80 галава Малапольска-Літоўскай правінцыі ордэна.

Крыштоф Антоній (?—1703), сын Яна Антонія. Пасол на соймы 1690 і інш., дэпутат Скарбовага трыбунала ВКЛ у 1673, кашталян смаленскі з 1695.

Юзаф (1731—5.3.1801), сын Дамініка. Шамбялян караля Аўгуста III (1749), ген.-маёр войска ВКЛ (1762), у 1764—82 выбіраўся пасолам на соймы, суддзя земскі смаленскі з 1775, з 1782 чл. Скарбовага дэпартамента Пастаяннай Рады, у 1784—86 чл. Дэпартамента замежных спраў і адначасова маршалак Пастаяннай Рады, кашталян мсціслаўскі ў 1786—92. Кавалер ордэнаў св. Станіслава і Белага Арла.

Антоній (?—1760), падкаморы смаленскі з 1750, паручнік пяцігорскі войска ВКЛ (1755), рэгіментар Бел. дывізіі войска ВКЛ у 1760.

Яўстахій Юзаф (?—1791), сын Дамінік. Войскі полацкі, харужы гусарскі войска ВКЛ (1750), пасол на соймы 1764, 1778, старадубскі падстараста з 1765, харужы, стараста з 1774, пісар Трыбунала ВКЛ у 1752—53, 1762—63, падваявода полацкі з 1774, шамбялян Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1778), інстыгатар ВКЛ у 1779—83. Кавалер ордэнаў св. Станіслава і Белага Арла.

Мікалай Саба, сын Антонія, паручнік пяцігорскі войска ВКЛ, пасол на соймы 1754, 1760, 1766, рэгіментар Бел. дывізіі войска ВКЛ з 1762, аршанскі маршалак у 1771 і кашталян з 1793. Падпісаў Віленскі акт *паўстання 1794*, уваходзіў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады*. Кавалер ордэнаў св. Станіслава і Белага Арла.

Антоній, сын Мікалая Сабы, маршалак аршанскі (пасля 1772), стараста старадубскі. Пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92, належаў да Таварыства сяброў Канстытуцыі 3 мая 1791.

Юзаф (?—25.2.1812), сын Яўстахія Юзафа. Стараста старадубскі з 1781, інстыгатар ВКЛ у 1783—92, шамбялян караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1783), маршалак дваранства Полацкай губ.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Храптовіч**, Літавор-Храптовіч, Іахім Ігнацы Юзаф (4.1.1729, маёнтак Ясянец Навагародскага пав.—4.3.1812), дзяржаўны, гаспадарчы, навуковы і культурны дзеяч ВКЛ. З роду *Храптовічаў*. Вучыўся ў Нясвіжскім калегіуме, Віленскай акадэміі, у Брунсбергу. Напачатку служыў у войску. Стольнік навагародскі ў 1752—64; выбіраўся дэпутатам Трыбунала ВКЛ у 1753, 1765 (яго маршалак), пасолам на соймы 1754, 1756, 1758, 1764, 1766. Вялікі сакратар ВКЛ у 1764—73, падканцлер ВКЛ у 1773—93, з 1793 канцлер ВКЛ; чл. Пастаяннай Рады, міністр замежных спраў Рэчы Паспалітай у 1791—92; стараста аршанскі, жослінскі, старадубскі. У 1769—72 наведаў Германію, Францыю, Англію, Галандыю і Аўстрыю, дзе знаёміўся з ідэямі Асветніцтва, фізіякратызму, а таксама з прагрэсіўнымі метадамі вядзення сельскай гаспадаркі. Пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў Х. разам з інш. прапанаваў перадаць усю маёмасць ордэна ў Рэчы Паспалітай у фонд развіцця адукацыі. У створанай *Адукацыйнай камісіі* Х. быў кіраўніком дэпартамента школ ВКЛ (уваходзіў у яе склад да 1792). На Чатырохгадовым сойме 1788—92 прапанаваў праект агульнага размежавання ўладанняў у ВКЛ, падтрымаў прыняцце *Канстытуцыі 3 мая 1791*. У 1793—95 лячыўся за мяжой, у апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай амаль адышоў ад дзярж. спраў. Пасля смерці бацькі ў 1766 атрымаў маёнткі Шчорсы ў Навагародскім пав., Зембін у Менскім пав., Пышна ў Полацкім ваяв., Халопенічы ў Аршанскім пав. і інш., пазней набыў Бешанковічы і Пачаевічы ў Полацкім ваяв., Вішнева і Славенск у Ашмянскім пав., Грыцкавічы і Нежыцы ў Аршанскім пав., трымаў у закладзе Нягневічы ў Навагародскім пав. У 1770—76 у Шчорсах быў створаны выдатны палацава-паркавы ансамбль. У палацы сабраў вял. б-ку (гл. *Бібліятэка Храптовічаў*). У сваіх маёнтках Х. істотна рэарганізаваў гаспадарку, якая стала адной з найлепшых у ВКЛ. Работы ў фальварках Шчорсаў выконвалі толькі наёмныя работнікі (з мясц. сялян). Ураджайнасць збожжавых была вельмі высокай: звычайна сам-20, а ў больш урадлівыя гады — сам-26. Пэўныя поспехі мела жывёлагадоўля і пчалярства. Значная частка збожжа і інш. прадукцыі сплаўлялася ў Каралявец. У Шчорсах быў пабудаваны адзін з першых на Беларусі ветракоў. У 1770-х г. у сваіх маёнтках Х. скасаваў паншчыну. Замест яе кожная сял. гаспадарка за карыстанне зямельным надзелам (трэць валокі ворыва і пэўны ўчастак сенажаці) павінна была аддаваць чынш — трэць ураджаю і палову



І.І.Ю.**Храптовіч**. Мастак Я.Дамель (копія партрэты Дж.Б.Грасі).



сена ў пераліку на грошы. За карыстанне лесам сяляне плацілі грошы або дастаўлялі на панскі двор пэўную колькасць дроў. Сяляне аддавалі палавіну сабраных дароў лесу. Лавіць рыбу без кантракта сялянам забаранялася. Такім чынам, Х. ператварыў сваіх сялян у прыгонных арандатараў. Іх гаспадарчая самастойнасць значна пашырылася, што абумовіла адносна лепшы іх дабрабыт. Для сялян Х. будаваў школы, аптэкі, наймаў лекараў. Гэта спрыяла таму, што многія прыгонныя сяляне з Рас. імперыі, шукаючы лепшую долю, уцякалі менавіта ў яго маёнткі. Аграрная рэформа Х. забяспечыла 3-разовае павелічэнне яго даходаў. Такая сістэма эксплуатацыі сялян праіснавала без істотных змен да 1861. Х. заснаваў *Вішнеўскую металургічную мануфактуру* і інш. прадпрыемствы. У апошнія гады жыцця актыўна займаўся навуковай дзейнасцю. Быў адным са стваральнікаў Варшаўскага таварыства сяброў навук. У 1802 у Варшаве як дадатак да перакладзенай ім кнігі А.Цюрго «Аб утварэнні і размеркаванні багаццяў у грамадстве» выйшла яго ўласная праца «Аб штогадовым нацыянальным узнаўленні», а ў 1814 — «Аб натуральным праве», у якіх зарэкамендаваў сябе як выдатны прапагандыст ідэй фізіякратызму. Пісаў вершы, артыкулы на с.-г. тэмы. У выніку вывучэння гісторыі свайго роду напісаў «Памятку пра род Літавораў-Храптовічаў ад першых звестак да 1795 г.» (апубл. 1890—91).

*Літ.*: de Mehlig K.A. Opisanie wybornego gospodarstwa w dobrach Szczorse do JW. Chreptowicza, podkanclerzego litt. należących w woiewodztwie Nowogrodzkim leżących // Pamiętnik Polityczny i Hystoryczny. Warszawa, 1783. T. 1. Maj; Вотчинное учреждение графа И.Хрептовича, дополненное сыном его Адамом: Отчет // Унивep. изв. Киев. 1905. № 8; Рябинин И.С. К вопросу о побегах русских крестьян в пределы Речи Посполитой: [По письмам Игнатия Омульского к Иоахиму Хрептовичу]. M., 1911; Ettinger P. Joachim Chreptowicz jako miłośnik sztuki // Odgłosy. Moskwa, 1916; Карев Д.В., Гришко Р.И. Последний канцлер Великого княжества Литовского: (И.Хрептович, гос. деятель и просветитель Белоруссии и Литвы второй половины XVIII в.) // Наш радавод. Гродна, 1993. Кн. 5. ч. 1; Спірыдонаў М.Ф. Алошні канцлер Вялікага княства Літоўскага // Спадчына. 2001. № 1/2; Яго ж. «Памятка о роде Литаворов-Хрептовичей...» Еахима Хрептовича // Архівы Беларусі на рубяжы XX—XXI стст.: Гісторыя, стан, перспектывы развіцця: Міжнар. навук.-практычная канф. Мн., 2001.

*Міхаіл Спірыдонаў.*

**Храптовічы,** Храбтовічы, магнацкі род герба «Адравонж». Родапачынальнік — баярын Багдан, які жыў у сярэдзіне—2-й пал. 15 ст. Х. былі праваслаўнымі, у 16 ст. перайшлі ў каталіцтва. Адна галіна роду — нашчадкі Івана Багданавіча — карысталася прозвішчам Літавор-Храптовічы (ад мянушкі Івана), другая — нашчадкі Багдана Марцінавіча — Храптовічы-Багурынскія [ад в. Багурын (Багурым) на Валыні]. У 16 ст. Х. мелі маёнткі ў Навагародскім, Лідскім, Гарадзенскім пав., на Валыні, у 17 ст. — таксама ў Віцебскім пав., Полацкім ваяв., у 18 ст. валодалі Бешанковічамі і Глыбокім. З 2-й пал. 18 ст. ўжывалі графскі тытул, які ў 1843 прызнаны ў Рас. імперыі. Пасля смерці ў 1891 апошняга прадстаўніка графскай галіны роду Міхала Ірынеевіча Х. прозвішча і тытул перайшлі да прадстаўнікоў роду Буцянёвых, якія пачалі звацца Храптовічамі-Буцянёвымі. Галіна Храптовічаў-Багурынскіх згасла на Валыні ў 1757, яе гродзенская лінія — у 1890, лідская лінія існавала на пач. 20 ст.

Найб. вядомыя:

Іван Багданавіч (Івашка, мянушка Літавор; ?—1513), падскарбі дворны ВКЛ у 1482—92, маршалак гаспадарскі ў 1492—1500, 1509—13; намеснік уцянскі ў 1489, слонімскі ў 1492, навагародскі ў 1499, дарагічынскі ў 1512, кобрынскі ў 1513. Быў паслом у Польшчу і Маскву. Удзельнічаў у *бітве на Вядрошы 1500*, узяты ў палон, дзе знаходзіўся да 1509.

Фёдар Багданавіч (Федзька; ?—каля 1522), падскарбі дворны ў 1494, падскарбі вялікі ў 1500—09; намеснік беліцкі ў 1502, берасцейскі ў 1507, астрынскі ў 1507—09. За ўдзел у *Глінскіх мяцяжы 1508* пазбаўлены пасад і ў 1509—11 зняволены.

Марцін Багданавіч (?—1526), канюшы дворны ў 1495—1509, падскарбі дворны ў 1502—04, лоўчы ВКЛ у 1505—09; намеснік зблянскі ў 1497, жалудоцкі ў 1501. За ўдзел у змове Глінскіх пазбаўлены пасад і ў 1509—11 зняволены. Канюшы троцкі і маршалак гаспадарскі з 1524.

Васіль Багданавіч (?—пасля 1528), намеснік уладзімірскі і ждолбіцкі ў 1495—1513. Уладальнік маёнтка Багурын, які ў 1528 перадаў пляменніку Багдану Марцінавічу.

Юрый Фёдаравіч (у манастве Герман; ?—1558), сын Фёдара Багданавіча, дваранін гаспадарскі ў 1541, з 1551 архіепіскап полацкі, віцебскі і мсціслаўскі.

Мялецій (?—студз. 1593), сын Івана Алехнавіча. Удзельнічаў у войнах з Маскоўскай дзяржавай, потым манах Кіева-Пячэрскага манастыра, яго архімандрыт з 1572. У 1592 дамогся для манастыра ў канстанцінопальскага патрыярха стаўрапігіі (прамога яму падпарадкавання). Пры падтрымцы караля Стафана Баторыя ў 1580 абраны епіскапам уладзіміра-берасцейскім. У 1590 дазволіў мяшчанам Берасця ўтварыць брацтва пры царкве св. Мікалая і адчыніць школу на ўзор львоўскай брацкай школы. Да праекта царк. уніі ставіўся непрыхільна.

Юрый Адамавіч (1586, мяст. Вішнева Ашмянскага пав.—1650), сын Адама Іванавіча. Кашталян смаленскі ў 1639—43 і жамойцкі ў 1643—45, ваявода парнаўскі ў 1645—46 і навагародскі з 1646. Удзельнік *вайны Рэчы Паспалітай са Щвецыяй 1600—29*, узяцця Парнава ў 1609. З 1615 на чале коннай харугвы ўдзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*.

Марцыян (1698, в. Шчорсы Навагародскага пав.—17.4.1766), сын Міхала, староста вярбельскі.

Ян (1703—65), сын Міхала. Стольнік навагародскі з 1731, кашталян берасцейскі ў 1752—56 і навагародскі з 1756, пасол на соймы.

Кароль (?—пасля 1794), сын Якуба. Пісар земскі гарадзенскі з 1746, прыхільнік К.С.Радзівіла Пане Каханку, маршалак Радамскай канфедэрацыі ў Гарадзенскім пав. У 1767 выступіў з маніфестам супраць гвалтаў рас. пасланніка М.В.Рапніна. Удзельнічаў у Барскай канфедэрацыі, у 1772—74 у эміграцыі, вярнуўся і больш не прымаў удзелу ў паліт. жыцці. У 1781—86 харужы надворны ВКЛ, з 1786 староста гарадзенскі.

Іахім Ігнацы Юзаф (4.1. 1729—4.3.1812), сын Марцыяна, гл. *Храптовіч* І.І.Ю.

*Літ.*: Лобанов-Ростовский А.Б. Русская родословная книга. Т. 2. 2 изд. СПб, 1895; Boniecki A. Herbarz polski. T. 3. Warszawa, 1900.

***Анатоль Грыцкевіч.***



**Хроніка Быхаўца,** Летапіс Быхаўца, Быхаўца хроніка, трэці, найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны звод ВКЛ. Выяўлена ў 1820-я г. ў б-цы А.Быхаўца, памешчыка з маёнтка Магілёўцы пад Ваўкавыскам. Пачатак і канец хронікі не збераглісе. Вядома ў адзіным спісе канца 17—пач. 18 ст., перапісаным лацінкай з больш даўняга, кірылічнага тэксту. Рукапіс згублены ў 2-й пал. 19 ст.

Крыніцамі Х.Б. паслужылі *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», Галіцка-Валынскі летапіс, Беларуска-літоўскі летапіс 1446.* Аўтар зводу перанёс пачатак падзей з 1 ў 5 ст., з часоў Нерона ў эпоху Вял. перасялення народаў і дапоўніў легендарную гісторыю Літвы аповесцю пра Міндоўга і Войшалка (запазычана з Галіцка-Валынскага летапісу). Бел.-літ. летапіс 1446 уключаны ў скарочаным выглядзе, без агульнарус. часткі і *«Пахвалы Вітаўту».* Асн. крыніцамі арыгінальнай часткі, якая складае каля палавіны тэксту і ахоплівае падзеі пераважна 15—пач. 16 ст., паслужылі розныя гіст. і сямейныя паданні, успаміны відавочцаў, уласныя назіранні аўтара.

Х.Б. прысвечана гісторыі ВКЛ ад легендарных часоў да пач. 16 ст. Арыгінальная частка твора складаецца з асобных дакументальных запісаў і гіст. апавяданняў пра мінулае Беларусі і Літвы. Гісторыю бел.-літ. княжацкіх і магнацкіх родаў (найб. пра *Гаштольдаў* і *Алелькавічаў*), пра значныя падзеі ўнутр. і знешнепаліт. жыцця дзяржавы. Дамінуючая тэма — ваенна-патрыятычная. Шмат старонак аўтар прысвяціў апісанню паходаў і бітваў. Асабліва жывасцю і літ. дасканаласцю вылучаюцца апавяданні пра адзін з паходаў Альгерда на Маскву, Грунвальдскую бітву 1410 і забойства вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440. Твор абрываецца на апісанні перамогі войска ВКЛ пад камандаваннем М.Глінскага над татарамі пад Клецкам у 1506. Асобныя старонкі хронікі маюць выразную публіцыстычную накіраванасць. Прыкметна непрыязнае стаўленне аўтара да кіруючых колаў Польшчы, у якіх ён бачыў гал. ворагаў паліт. незалежнасці сваёй радзімы. Адначасова храніст высока ставіў ролю бел.-літ. феадалаў у гісторыі ВКЛ, у абароне яго дзярж. інтарэсаў. У Х.Б. выявіліся імкненні і пог-




**Хроніка Быхаўца.**
Старонка рукапісу.

ляды патрыятычна настроенай часткі мясц. шляхты, заклапочанай гіст. лёсам сваёй дзяржавы.

Мова хронікі — узор старабел. літаратурна-пісьмовай мовы 16 ст. Асобныя дэталі зместу і гіст. рэаліі сведчаць пра тое, што асн. частка Х.Б. напісана беларусам правасл. веравызнання, блізкім да князёў Алелькавічаў. Як летапісны звод завершана, відаць, у 1530-я г.

Х.Б. — важная крыніца па сярэдневяковай гісторыі Беларусі і Літвы, каштоўны помнік грамадска-паліт. думкі бел. і літ. народаў, бел. мовы і л-ры эпохі Адраджэння. Паслужыла крыніцай *«Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі»* М.Стрыйкоўскага, а праз яе — і апошняй (1611) рэдакцыі *«Хронікі Еўрапейскай Сарматыі»* А.Гваньіні, «Хронікі Польшчы» М. і І. Бельскіх, шэрагу інш. хронік і гісторый 17—19 ст., у т.л. бел.-ўкр. хранографа *«Вялікая хроніка».* Упершыню поўнасцю апублікавана ў 1846 Т.*Нарбутам,* перавыдадзена ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 32, 1975). Перакладзена на рус., літоўскую і сучасную бел. мовы.

*Літ.*: Хроника Быховца. М., 1966; Флоря Б.Н. О «Летописце Быховца» // Источники и историография славянского средневековья. М., 1967; Ochmański J. Nad Kroniką Bychowca // Studia źródłoznawcze. 1967. T. 12; Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969. С. 162—186; Lietuvos metraštis: Bychovco Kronika. Vilnius, 1971; Ючас М.А. Хроника Быховца // Летописи и хроники. 1973 г. М., 1974; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 66—74; Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»,** гісторыка-літаратурны твор 16 ст., у якім выкладзена гісторыя ВКЛ ад легендарнага кн. Палемона да Гедзіміна. Напісана ў 1520-я г. на бел. мове, відаць, у Вільні ў асяроддзі літоўскіх феадалаў. Яе 2-я і 3-я рэдакцыі ўзніклі ў сярэдзіне 16 ст.

У аснову хронікі пакладзена легенда пра паходжанне літоўскіх князёў і шляхты ад рымскіх арыстакратаў. Яна літаратурна апрацавана, храналагічна прывязана да пэўных этапаў еўрапейскай гісторыі (пачатак падзей аднесены да часоў Нерона, 1 ст. н.э.), набыла выгляд гіст. аповесці пра сапраўдныя падзеі мінулага. Крыніцамі для яе паслужылі розныя гіст. паданні (пра паходы Гедзіміна на Украіну, бітвы з татарамі, пра мінулае Вільні, Полацка, Навагародка, пра язычніцкія звычаі літоўцаў і інш.), *Беларуска-літоўскі летапіс 1446, Іпацьеўскі летапіс,* якія былі выкарыстаны адвольна і тэндэнцыйна. Узвялічваецца і гераізуецца мінулае Літвы і прыніжаецца гісторыя Русі. Пададзеная з пазіцыі літоўскіх феадалаў і маючая шмат фактычных недакладнасцей і свядомых скажэнняў гісторыя ўзнікнення ВКЛ не стасуецца з сапраўднай гісторыяй. Створана з мэтай сцвердзіць вядучую ролю, пануючае становішча ў дзяржаве літоўскіх феадалаў, абудзіць пачуцці нац. гонару і патрыятызму літоўцаў. Напісана ў звязнай форме, вельмі бегла, месцамі схематычна. З літаратурнага боку найб. цікавае ў хроніцы паэтычнае апавяданне пра заснаванне Гедзімінам Вільні, якое пабудавана на апрацаванай нар. фантазіяй тапанімічнай легендзе.

Хроніка распаўсюджвалася на Беларусі ў складзе 2-га аднайм. бел.-літоўскага летапіснага зводу, што ўзнік у выніку яе аб'яднання з *«Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх»* і інш. часткамі Бел.-літоўскага летапісу 1446. Захоўвалася ў 3 рэдакцыях: кароткай (гл. *Летапіс Красінскага*), пашыранай (гл. *Альшэўскі летапіс, Патрыяршы рукапіс, Румянцаўскі летапіс* і інш. спісы) і поўнай (гл. *Летапіс Рачынскага, Еўраінаўскі летапіс*). Паслужыла непасрэднай крыніцай *Хронікі Быхаўца, «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі»* М.Стрыйкоўскага, *«Хронікі Еўрапейскай Сарматыі»* А.Гваньіні, некаторых інш. хронік і гісторый 16—19 ст.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**«Хроніка Еўрапейскай Сарматыі»,** помнік гістарыяграфіі эпохі феадалізму. Складзена А.*Гваньіні* ў 1-й

пал. 1570-х г. на лацінскай мове. Засн. на розных крыніцах, у т.л. на бел.-літоўскіх хроніках. Аўтар выкарыстаў таксама матэрыялы, сабраныя М.*Стрыйкоўскім*. У творы апісваюцца Польшча, Беларусь, Літва, Украіна, Расія, Татарыя і інш. краіны, прыводзяцца звесткі з грамадзянскай гісторыі, геаграфіі, пра побыт, звычаі і культуру народаў Еўропы (напр., артыкул «Спосаб узворвання глебы і сяўбы на Белай Русі» і інш.). Гісторыя ВКЛ выкладзена скарочана, пераважна паводле *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца*.

Упершыню апублікавана ў 1578 у Кракаве, у 1581 у Спіры (Германія) выйшла 2-е, дапоўненае выданне, у 1583 надрукавана ў Італіі ў перакладзе на італьянскую мову. На Беларусі і Украіне была вядома ў выданні на польскай мове (Кракаў, 1611, непасрэднай крыніцай для гэтай рэдакцыі паслужыла *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі»* Стрыйкоўскага), якое дапоўнена кароткім апісаннем Зах. Еўропы, некаторых краін Б. Усходу, а таксама падзей у Польшчы, ВКЛ і Расіі апошняй чвэрці 16 ст. У 1-й пал. 17 ст. перакладзена па бел. мову. Паслужыла крыніцай для бел. і ўкр. хронік і хранографаў 17—18 ст. На яе спасылаецца Т.Сурта ў прадмове да *Магілёўскай хронікі*. «Х.Е.С.» — першы твор, які пазнаёміў зах.-еўрапейскага чытача з гісторыяй ВКЛ і зместам бел.-літоўскіх агульнадзярж. хронік. Іл. гл. ў т. 1, с. 17, 126.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Хроніка літоўская і жамойцкая»**, помнік беларуска-літоўскага летапісання 17 ст., 3-я частка *«Вялікай хронікі»*, дзе выкладзена сусветная гісторыя да канца 16 ст. Напісана на старабел. мове. Зместам блізкая да *Хронікі Быхаўца*, асабліва да *«Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі»* М.Стрыйкоўскага, што была асн. крыніцай для яе складальніка. Прысвечана гісторыі ВКЛ ад міфічнага кн. Палемона да Стафана Баторыя. У творы падкрэсліваецца гіст. значэнне бел. горада Новагародка як першай сталіцы княства, шмат увагі аддаецца ваен.-паліт. узаемаадносінам паміж ВКЛ і Расіяй. Адзіны помнік бел.-літоўскага летапісання, дзе змешчана аповесць пра Кулікоўскую бітву — «Сказанне пра



**«Хроніка літоўская і жамойцкая».**
Старонка Табольскага спіса. 18 ст.

Мамаева пабоішча». Побач з унікальнымі звесткамі ў хроніцы нямала фантастыкі, гіст. недакладнасцей. Складзена, пэўна, у паўд. Беларусі, магчыма, у Слуцку, чалавекам, блізкім да Радзівілаў (у хроніцы праслаўляецца іх род, паходжанне якога выводзіцца ад нашчадкаў рымскіх арыстакратаў). У складзе «Вялікай хронікі» бытавала на Украіне і ў Расіі. Апублікавана М.М.Улашчыкам у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 32, 1975). Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 155.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі»**, помнік польскай гістарыяграфіі 16 ст. Складзена М.*Стрыйкоўскім* у 1570-я г. (часткова на Беларусі). Упершыню апублікавана ў 1582 у Караляўцы (Кёнігсбергу).

«Хроніка...» вылучаецца шырынёю ахопу падзей (ад біблейскіх часоў да 1580 уключна), багаццем выкарыстаных крыніц (творы антычных гісторыкаў Герадота, Ціта Лівія, Клаўдзія Пталамея, Страбона, творы польскіх храністаў *Я.Длугаша*, *Мацея з Мехава*, М.*Кромера*, М.*Бельскага*, крыжацкага храніста *Пятра з Дусбурга*, стараж.-рус. і бел.-літоўскія летапісы). Апісвае паліт. гісторыю Польшчы, ВКЛ і Русі, закранае праблемы этнагенезу славян, сцвярджае адзінства іх паходжання, высока ацэньвае гіст. мінулае ўсх.-слав. народаў і літоўцаў, услаўляе іх гераічныя справы. Даволі падрабязна выкладзена гісторыя ВКЛ ад легендарнага кн. Палемона да Стафана Баторыя, пераважна паводле *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца*, што былі вядомы аўтару ў 15 спісах і выкарыстаны ім добрасумленна, але некрытычна; мае шмат недакладнасцей і адвольнасцей. «Хроніка...» змяшчае звесткі па гісторыі бел. культуры, пра помнікі археалогіі, архітэктуры, жывапісу Беларусі эпохі сярэдневякоўя. Характэрная асаблівасць помніка — наяўнасць значнай колькасці вершаваных уставак пра асобныя падзеі батальнай тэматыкі (пра бітвы з татарамі пад Клецкам у 1506, з рус. войскамі пад Оршай у 1514, пад Улай у 1564 і інш.), а таксама аўтарскія прысвячэнні розным бел.-літоўскім мецэнатам. Падзеі ў творы асветлены з агульнадзярж. і шляхецкіх пазіцый; мінулае бел. і літ. народаў паэтызуецца і гераізуецца. Сваім кампіляцыйным характарам, асаблівасцямі выкладу і жанравай формы «Хроніка...» нагадвае летапісны звод, апрацаваны пад белетрыстычную гіст. аповесць. Яна карысталася вял. папулярнасцю і аўтарытэтам у Беларусі, Літве і на Украіне, была добра вядома ў Расіі, дзе неаднаразова перакладалася. Паслужыла непасрэднай крыніцай «Хронікі Польшчы» І.*Бельскага*, апошняй (1611) рэдакцыі *«Хронікі Еўрапейскай Сарматыі»* А.*Гваньіні*, «Палінодыі» З.Капысценскага, *«Сінопсіса»* І.Гізеля, гіст. прац В.М.*Тацішчава*, Т.*Нарбута*, твораў інш. польскіх, укр., рас., літ. храністаў і гісторыкаў. На бел. мову перакладзена ў канцы 16—пач. 17 ст., лягла ў аснову *«Хронікі літоўскай і жамойцкай»*, 2-й і 3-й частак бел.-ўкр. хранографа *«Вялікая хроніка»*.

*Публ.*: Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1—2. Warszawa, 1846.
*Літ.*: Рогов А.И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения: (Стрыйковский и его «Хроника»). М., 1966; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 82—129.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Хроніка ўсяго свету»**, помнік польскай гістарыяграфіі 16 ст.; гісторыка-літаратурная кампіляцыя, скла-




**«Хроніка ўсяго свету»** М.Бельскага. 1564. Тытульны ліст.

дзеная М.*Бельскім*. Прысвечана сусветнай гісторыі ад антычных часоў да сярэдзіны 16 ст. Шмат увагі аддадзена біблейскай гісторыі, якая выкладзена паводле Старога запавету і Евангелля, стараж. гісторыі Грэцыі і Рыма, а таксама сярэдневяковай гісторыі Зах. Еўропы. Больш сцісла апісана гіст. мінулае славян. У канцы хронікі кароткае апісанне розных падарожжаў і вял. геаграфічных адкрыццяў. Гісторыя ВКЛ пададзена паводле «Гісторыі Польшчы» Я.*Длугаша*. Хроніка вылучаецца некрытычным стаўленнем аўтара да крыніц. У ёй шмат легендарных звестак, літаратурнага матэрыялу, белетрызаванага апісання мінулага. Напісана з пазіцый шляхецкага патрыятызму.

Упершыню апублікавана ў Кракаве ў 1551, перавыдадзена ў дапоўненым варыянце ў 1554 і 1564. Карысталася папулярнасцю на землях усх. славян. Перакладзена на бел. (1560-я г.) і рус. мовы. Паслужыла непасрэднай крыніцай 3-й рэдакцыі *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* (гл. *Еўраінаўскі летапіс* і *Летапіс Рачынскага*), *«Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі»* М.Стрыйкоўскага, бел.-укр. хранографа 17 ст. *«Вялікая хроніка»*. Адыграла станоўчую ролю ў пашырэнні агульнага кругагляду бел. чытачоў эпохі барока, задавальняла іх павышаную цікавасць да гіст. мінулага інш. краін і народаў, далучала да антычнай гісторыі і міфалогіі, знаёміла з падзеямі і героямі сусветнай гісторыі [Траянская вайна, подзвігі і прыгоды Аляксандра Македонскага (гл. *«Александрыя»*) і Скандэрбега (гл. *«Аповесць пра Скандэрбега»*), крыжовыя паходы, адкрыццё Калумбам Амерыкі і інш.].

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**хронікі** (грэч. chronika летапіс ад chronikos які адносіцца да часу), гісторыка-літаратурныя творы, дзе падзеі падаюцца ў часавай паслядоўнасці, адпаведна пэўнай гіст. канцэпцыі. У жанравых адносінах больш закончаныя і цэласныя, чым *летапісы*. Узніклі ў глыбокай старажытнасці (Х. вавілонскія і кітайскія, кніга Хронік, што ўвайшла ў склад Біблії, і інш.). У эпоху сярэдневякоўя — вядучы жанр гіст.-дакументальнай прозы (Х. французскія, нямецкія, польскія, чэшскія). У шэрагу зах.-еўрапейскіх Х. часткова адлюстравана і гісторыя бел. зямель (гл. *Інфлянцкія хронікі*, *Прускія хронікі*). Адзін з першых гіст.-літаратурных твораў, напісаных па-беларуску — першая бел. Х. *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* (15 ст.). Яго традыцыі ў 16 ст. былі працягнуты ў *«Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*. Своеасаблівы сінтэз гіст. аповесцей з асобнымі пагадовымі запісамі, летапіснага і хранаграфічнага спосабаў апісання мінулага ў *Хроніцы Быхаўца*, на якой грунтуюцца бел.-літоўскія звесткі *«Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі»* М.Стрыйкоўскага. Х. называюцца і некаторыя помнікі летапіснага жанру, творы з пагадовай формай выкладу (*Магілёўская хроніка*). Зрабілі значны ўплыў на гіст. прозу і драматургію новага часу. З Х. генетычна звязаны *дыярыушы*.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Хрыстафор Філалет**, гл. *Бранеўскі* М.

**хэлмскае права**, сістэма гарадскога права ў гарадах Прусіі, Памор'я, Вармії, Мазовії, Падляшша. Вызначала арганізацыю і прынцыпы дзейнасці гар. самакіравання, маёмасныя і грамадзянскія правы мяшчан. Склалася ў г. Хэлм (Кульм) ва Усх. Прусіі ў 1230-х г. на аснове *магдэбургскага права*. У 1251 гар. суд Хэлма абвешчаны вышэйшай судовай інстанцыяй для прускіх гарадоў. У 1394 аформіўся кодэкс Х.п. «Стары Хэлм» («Das alte Culm»). У 16 ст. складзены некалькі праектаў кодэксаў Х.п., але ніводны не быў зацверджаны каралём. Адрозненні Х.п. ад магдэбургскага нязначныя (прызнаваліся агульныя правы мужа і жонкі на маёмасць, у выпадку смерці мужа палова яго маёмасці адыходзіла жонцы і інш.). У ВКЛ Х.п. мелі некаторыя гарады Падляшша: Бельск (1440), Ванеў (1510), Венграў (1441), Ганязь (1547), Кляшчэлі (1523), Крабаў (1528), Мельнік (1440), Морды (1488), Нараў (1514), Новае Места (Мукаботы, 1496), Тыкоцін (1425), Янаў (1465), а таксама Жамойці: Варні (1491), Шкуды (Йохансберг, 1572).

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901. С. 335—339; Jarmolik W. Rozwój niemieckiego prawa miejskiego na Podlasiu do Unii Lubelskiej 1569 roku // Przegląd Historyczny. 1982. Z. 1—2; Zdrójkowski Z. Zarys dziejów prawa chełmińskiego, 1233—1862. Toruń, 1983; Стрэнкоўскі С.П. Граматы на хэлмінскае права ў гарадах заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага // Культурна-нацыянальныя працэсы на Беларусі ў другой палове XIX—пачатку XX ст. Мн., 1998.

***Валерый Пазднякоў.***





**Цадроўскі** Ян (3.3.1617, в. Пагост каля Слуцка—29.1.1688), грамадска-палітычны дзеяч ВКЛ, пісьменнік-мемуарыст. З кальвініцкай шляхецкай сям'і, сын Яна, пасла на соймы 1626, 1632, 1634, дэпутата Трыбунала ВКЛ. З 1631 вучыўся ў Каралявецкім (Прусія), з 1636 у Кракаўскім ун-тах. У 1637—69 на службе ў кн. Б.*Радзівіла*. Да 1639 суправаджаў яго ў падарожжы па Германіі, Даніі, Галандыі, Францыі і Англіі. У 1643 асеў у Старой Вёсцы на Падляшшы як радзівілаўскі ўраднік. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1656 менская шляхта паслала Ц. да цара Аляксея Міхайлавіча з просьбай не прыцягваць яе да будаўніцтва Менскага замка і захаваць старыя шляхецкія судовыя правы (Ц. заспеў цара ў Друі і суправаджаў яго да Рыгі). У 1658 удзельнічаў у баі супраць маскоўскага атрада каля Каменя Харэцкага. У 1660 далучыўся да войска С.*Чарнецкага*, якое ішло ад Свержаня да Бярэзіны. 10 разоў выбіраўся паслом на соймы, 2 разы — дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Аўтар мемуараў (без назвы) на польскай мове, якія асвятляюць падзеі 1617—82 і складаюцца з 2 частак. 1-я частка (скончана ў 1672) змяшчае кароткія аўтабіяграфічныя нататкі, дзе апісана грамадска-паліт. дзейнасць аўтара, падзеі часоў вайны з Расіяй. 2-я частка (скончана ў 1682) складаецца пераважна з запісаў пра смерць сваякоў і знаёмых Ц., апісвае расправу каталікаў над віленскімі кальвіністамі ў 1682. Мемуары — цікавая гіст. крыніца. Упершыню апублікаваны ў 1855 у час. «Временник Императорского Московского общества истории и древностей российских» (кн. 23).

*Тв.*: Dwa pamiętniki z XVII wieku: Jana Cedrowskiego i Jana Floriana Drobysza Tuszyńskiego. Wrocław, 1954; Бел. пер. — Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.

**цаля** (польск. cal ад ням. Zoll), мера даўжыні ў Польшчы і ВКЛ. Называлася таксама *пядзяй*. У сістэме кракаўскага локця 13—19 ст., які складаўся з 24 Ц., адпавядала 24,41972 мм. У сістэме мер ВКЛ 1764—66 1 Ц. = 1/12 стапы = 12 ліній = 27 мм.

***Яўген Аніщчанка.***

**Цамблак** Грыгорый, гл. *Грыгорый I.*

**царква** (ад грэч. Kyriake дом Божы), 1) арганізацыя вернікаў, якая склалася ў працэсе развіцця веравучэння і аб'яднання людзей у межах агульнай рэлігіі. Для Ц. характэрна існаванне сістэмы абавязковых догматаў, абрадаў (культу). Кіраванне ёю, як правіла, заснавана на іерархічных прынцыпах.

2) Назва храма ў праваслаўі, уніяцтве і некат. інш. рэлігіях. Паводле рэліг. дагматыкі з'яўляецца домам Бога і месцам агульнага богаслужэння. Звычайна мае 3-частковую кампазіцыю: прытвор, уласна храм, алтар. У прытворы (нартэксе, катыхумене) стаяць людзі, якія збіраюцца далучыцца да Ц. (рус. оглашенные), і тыя, на каго накладзена епітым'я (грэч. — пакаранне). Храм (грэч. наос) — зала для малення абшчыны вернікаў — мужчын і жанчын; у цэнтры знаходзіцца амбон — узвышанае месца, з якога чытаецца Евангелле і прамаўляюцца пропаведзі. Алтар — памяшканне, даступнае толькі святару, там знаходзіцца прастол, або Св. Трапеза; ад малельнай залы алтар аддзелены іканастасам — драўлянай сцяной з абразоў у некалькі ярусаў з царскімі варотамі. У раннехрысціянскія часы, калі жанчыны маліліся асобна ад мужчын, для гэтага ладзіліся адмысловыя канструкцыі — хоры і галерэі (па-грэч. гінекеі) або «бабінцы»; пазней, калі жанчынам дазволілі стаяць у прытворы, яго таксама сталі называць «бабінцам». У архітэктурны комплекс Ц. можа ўваходзіць званіца (бывае непасрэдна на будынку або ставіцца асобна). Ц. мае шматлікія сімвалічныя тлумачэнні (карабель, космас, чалавек, цела Хрыстова, дом Гасподзень, Іерусалімская горніца). Падабенства да карабля або Ноева каўчэга ў тым, што вернікі ратуюцца сярод бурных вод жыцця і плывуць разам са Збавіцелем да нябеснага Іерусаліма. Падабенства Ц. да космасу ў тым, што рукатворная Ц. — увасабленне Ц. нерукатворнай, г.н. светастварэння. Антрапаморфнасць Ц. адлюстравана ў старадаўніх назвах элементаў пабудовы — галава (купал), шыя (барабан), плечы (скляпенні) і інш. Аздабленне Ц. мае ўстойлівую сістэму, якая склалася да 10 ст. ў Візантыі. Царк. размалёўкі ўяўляюць сабой вобраз свету, які ўключае гісторыю (Свяшчэнную гісторыю і гісторыю Ц.) і метагісторыю (стварэнне і канец свету). У аснове



размалёвак — іерархічны падыход: чым вышэй выява, тым больш значная падзея або асоба. Царк. дэкарацыя развіваецца ад купала, які ўспрымаецца як рэальнае неба, адкуль прыйдзе Хрыстос у дзень другога прышэсця. Таму там размяшчаецца выява Хрыста Уседзяржыцеля (грэч. — Пантакратара). Вакол Хрыста — сілы нябесныя: архангелы, херувімы і інш. Ніжэй у барабане — выявы прарокаў, якія ўспрынялі і перадалі народам волю Божую. Купал звязваецца з падкупальнымі слупамі з дапамогай канструктыўных элементаў паўсферычнай формы — ветразяў. Там змяшчаюцца выявы евангелістаў, якія пашыраюць Добрую Вестку. На слупах насценныя выявы і абразы св. падзвіжнікаў — пакутнікаў і воінаў («стаўпоў Ц.»). На скляпеннях і сценах размяшчаюцца сюжэты з Новага і Старога Запаветаў. Змест размалёвак можа адрозніваецца ў залежнасці ад зададзенай багаслоўскай праграмы Ц. Па сваім значэнні Ц. можа быць стаўрапігіяльная — у непасрэдным падпарадкаванні патрыярха або Сінода, кафедральная — Ц. епархіяльнага архірэя; прыходская; могілкавая ці мемарыяльная — часоўня. Найб. значныя Ц. называюць саборамі.

У Беларусі будаўніцтва Ц. пачалося ў пач. 11 ст. (Ц. Багародзіцы «Старой» у Полацку). У 11 ст. на аснове творчага пераасэнсоўвання візантыйскіх будаўнічых традыцый склалася Полацкая школа дойлідства, у 12 ст. — Гарадзенская школа. Ц. перыяду ВКЛ мелі рысы старабел. традыцый і зах.-еўрапейскай культуры. У 17 ст. існавала Магілёўская школа царк. архітэктуры.

*Літ.*: Голубинский Е. История русской церкви. Т. 1. М., 1880; Восточнохристианский храм: Литургия и искусство / Сост. А.М.Лидов. СПб., 1994; Марозава С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596—1839 гг.). Гродна, 2001.

***Аляксандра Верашчагіна, Генадзь Лаўрэцкі.***

**царкоўнаславянскае пісьменства**, рэлігійныя творы розных жанраў, складзеныя на ўсх.-слав. рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы ў 10—18 ст. Узнікненне Ц.п. абумоўлена хрысціянізацыяй усх.-слав. зямель, распаўсюджаннем богаслужэбных кніг старaслав. пісьма, начаткам выкарыстання старaслав. мовы ў набажэнстве і паступовай зменай яе норм пад уплывам асаблівасцей жывой нар. гаворкі. У канцы 10—пач. 11 ст. пачалося перапісванне завезеных на Русь перакладных балгарскіх кніг: Псалтыроў, Евангеляў, Парамінніка, Трыёдзяў, Міней, Часаслова, Актоіха, Служэбніка і трэбніка, Намаканона, зб-каў казаняў, слоў, павучанняў айцоў царквы («Залаты ланцуг», «Златаструй», «Маргарыт», «Таржэсцвенік») і інш. Першая з усх.-слав. кніг Ц.п. — Астрамірава Евангелле (Вял. Ноўгарад, 1056); першыя помнікі, якія складзены ў 10—11 ст. на царк.-слав. мове, але захаваліся ў пазнейшых рукапісах — т.зв. «Прамова Іаана Полацкага» ў «Аповесці мінулых гадоў» (987), «Слова пра Закон і Дабрадар» мітрапаліта Іларыёна (1049), летапісная аповесць і «Казанне пра Барыса і Глеба» і інш. У гэты час ажыццяўляліся пераклады са старагрэчаскай і інш. моў на царкоўнаславянскую, якія ўвайшлі ў агульны фонд Ц.п.: «Хроніка Георгія Амартала», «Гісторыя Іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія, асобныя кнігі Бібліі, некат. апокрыфы, «Аповесць пра Акіра Прамудрага». Арыгінальныя помнікі некаторых жанраў вызначаліся мастацкасцю ў падачы матэрыялу і своеасаблівым гістарызмам, што дало падставу часам называць Ц.п. «літаратурай старажытнай Русі». Захаваўся таксама шэраг рукапісаў, якія паходзяць з тэр. Беларусі: Тураўскае Евангелле (фрагменты) 11 ст., Полацкае Евангелле, Аршанскае Евангелле, Супрасльскі рукапіс, Слуцкая псалтыр (урыўкі) 12 ст. Перапісваннем царк.-слав. кніг займалася св. Ефрасіння Полацкая. Узорамі тагачаснага Ц.п. можна лічыць надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай, зроблены Лазарам Богшам па замове Ефрасінні, «Пасланне Клімента Смаляціча да Фамы прэсвітэра» (сярэдзіна 12 ст.), помнікі бел. агіяграфіі. Найб. росквіту Ц.п. дасягнула ў творчасці св. Кірылы Тураўскага. Яго творы заснаваны на візантыйскіх узорах, але тураўскі епіскап вольна пераасэнсаваў традыцыйны матэрыял, у выніку чаго склаў новыя, дасканалыя па форме творы, з характэрнай гармоніяй рытмічна пабудаваных перыядаў, сінтаксічным паралелізмам форм, шырокім ужываннем марфалагічнай рыфмы, свабодным выкарыстаннем рытарычных прыёмаў і сродкаў. Ад 13—14 ст. захаваўся шэраг царк.-слав. рукапісаў: *Друцкае Евангелле, Лаўрышаўскае Евангелле,* Мсціжскае Евангелле, якія працягваюць традыцыі Ц.п. ранейшых часоў, аднак у канцы 14 і 15 ст. пачалося іх пераадоленне. Складальнік Новагародскай чэцці 1489 паповіч Бярозка імкнуўся да спалучэння царк.-слав. і бел. моў, гэта ж тэндэнцыя заўважаецца ў Псалтырах, Евангелях, Пралогах, зборніках жыцій святых, сачыненнях прыродазнаўчага, натурфіласофскага, медычнага характару («Лапатачнік», «Шастакрыл», «Арыстоцелевы вароты». «Логіка» і інш.). У 15 ст. ўзнік бел. варыянт царк.-слав. мовы, на якім у пач. 16 ст. ажыццёўлены выданні Ф.*Скарыны.* Можна меркаваць, што многія беларусізмы ў арфаграфіі, граматычным ладзе і лексіцы ўстойліва выкарыстоўваліся ў бел. кнігах таго часу, але ў перакладах, прадмовах і пасляслоўях першадрукара бел. варыянт ужываецца свядома, паслядоўна і мэтанакіравана, чым ствараецца асаблівая вобразна-моўная сістэма. У выданнях Пражскай псалтыры (1517), «Малой падарожнай кніжкі» (1522), «Апостала» (1525), а таксама ў прадмовах і пасляслоўях Скарына абраў класічны для Еўропы шлях нац. моваўтварэння, які дасягаецца спалучэннем развітых форм словаўтварэння і логікапаняційнага апарату развітой царк. мовы і жывой нар. мовы. Скарынаўскія прынцыпы перакладу і творчасці атрымалі далейшае развіццё ў «Прадмове да Евангелля» В.*Цяпінскага* (каля 1580). Аднак у цэлым у 16—17 ст. сфера Ц.п. звужаецца. Друкарні ў Вільні, Еўі, пасля Куцейне, Буйнічах, Магілёве, Супраслі і Гародні яшчэ выдавалі кнігі культавага прызначэння на царк.-слав. мове (часасловцы, служэбнікі, малітвасловы, паўуставы, канонікі і г.д.), але ўласна бел. элементы ў бел. варыянце царк.-слав. мовы выцясняюцца велікарускімі (радзей старaслав. і спарадычна польскімі). Пра агульны заняпад бел. Ц.п. пісалі С.*Будны*, А.*Курбскі*, Цяпінскі, П.*Скарга*, Л.*Крэўза* і інш. Узорам царк.-слав. мовы на Беларусі стала «Астрожская Біблія», выдадзеная ў 1581 І.*Фёдаравым*, якая лічылася эталонам для ўсіх далейшых царк.-слав. твораў на ўсх.-слав. землях. У сувязі з царк. палемікай вакол пытанняў аб прыняцці царк. уніі



правасл. пісьменнікі *Лявонцій* Карповіч, С.*Зізаній*, *Афанасій Берасцейскі*, Іоў Княгінінскі, Л.*Зізаній* і інш. часткова адрадзілі ў сваіх творах лепшыя традыцыі Ц.п., брацкія друкарні Беларусі і Украіны ажыццявілі выданні граматык, буквароў і слоўнікаў царк.-слав. мовы. Сярод іх найб. значная «Граматыка славенская правільнай сінтагмы» М.*Сматрыцкага* (1618—19). Яна канчаткова ўнармавала царк.-слав. мову, стала 1-м лінгвістычным даследаваннем і асн. навучальным дапаможнікам у Беларусі і Расіі да 18 ст.

Да Ц.п. таго часу адносяцца таксама паэтычныя творы, напісаныя Л.Зізаніем, А.Мужылоўскім, С.*Собалем*, Афанасіем Берасцейскім і невядомымі аўтарамі («Лямант на смерць Лявонція Карповіча», «Надгробак айцу Афанасію Філіповічу» і інш.). На гэтай аснове складаецца т.зв. славяна-рускі тэрмін стараслав. мовы, якім карысталіся Філафей Утчыцкі, *Ігнацій* Яўлевіч і *Сімяон Полацкі*. Казанні апошняга, сабраныя ў кнігах «Вячэрня духоўная», «Абед духоўны», цалкам можна далучыць да Ц.п. У 17—18 ст. бел. варыянт царк.-слав. мовы, узбагаціўшы велікарускі яе варыянт, канчаткова спыніў сваё існаванне: як бел., так і ўкр. кнігі цалкам арыентаваліся на рас. ўзоры і перасталі адрозніваць ад кніг Маскоўскай дзяржавы. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі старабел. друкарні паступова спынялі сваю дзейнасць; набажэнства вялося па кнігах, складзеных (ці адрэдагаваных) і выдадзеных у Расіі. Рас. выдаўцы таксама публікавалі рэліг. чытальную л-ру для веруючых. Пачаўся глабальны занепад царк.-слав. мовы, пра які сведчыць «Пентатэугум» А.Белабоцкага. Груваcткія сінтаксічныя канструкцыі, шаблонныя вобразы, нязграбная пабудова і недарэчныя ў кантэксце літ. развіцця 18 ст. мастацкія формы сведчаць, што ў гэты час Ц.п. вычарпала магчымасці для развіцця і занепала. Аднак пад уплывам царк. практыкі і славяна-рус. тэрміну стараслав. мовы ў Беларусі і Расіі на працягу 18 ст. неаднаразова рабіліся спробы частковай рэанімацыі і развіцця Ц.п., спалучэння яго элементаў з лепшымі здабыткамі тагачаснай мастацкай л-ры (І.Сакольскі, Георгій Каніскі інш.). У 19 ст. Ц.п., якое адыграла значную ролю ў развіцці літ. мовы і станаўленні нац. мастацкай л-ры, з-за абмежаванасці ўжытку канчаткова занепала і выкарыстоўваецца толькі ў набажэнстве правасл. царквы.

*Літ.*: Толстой Н.И. К вопросу о древнеславянском языке как общем литературном языке южных и восточных славян // Вопр. языкознания. 1961. № 1; Копыленко М.М. Как следует называть язык древнейших памятников славянской письменности? // Сов. славяноведение. 1966. № 1; Яскевіч А.А. Старабеларуская граматыкі: Да прабл. агульнафілал. цэласнасці. Мн., 1996; Гісторыя беларускай літаратуры: Старажыт. перыяд. 4 выд. Мн., 1998; Мельнікаў А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі: Жыццё, спадчына, светапогляд. 2 выд. Мн., 2000.

*Сяргей Гаранін.*

**царкоўныя ўладанні**, зямельная і інш. уласнасць праваслаўнай, уніяцкай і каталіцкай цэркваў. Фарміравалася з падараванняў вял. князёў і каралёў, магнатаў, шляхты, а таксама з уласнай гаспадарчай і інш. дзейнасці (купля, атрыманне ў спадчыну або за доўг і інш.). Уключала *манастырскія ўладанні*, уласнасць царк. іерархаў (епіскапаў, архімандрытаў і інш.), органаў царк. улады, прыходскіх храмаў. У Ц.ў. ўваходзілі царк., жылыя і гаспадарчыя будынкі, зямля з сялянамі і іх гаспадаркамі, гар. ўчасткі (пляцы), культавыя рэчы, грашовыя сумы і інш. Уласнасць правасл. царквы пачала фарміравацца адразу пасля хрышчэння Русі. Пасля хрышчэння Літвы і заснавання Віленскага біскупства (1386) у ВКЛ пачалі хутка расці каталіцкія Ц.ў. Да сярэдзіны 16 ст. Віленскае біскупства атрымала ва ўласнасць 300 вёсак і 16 мястэчак (каля 40 тыс. чал.), у 18 ст. валодала 600 вёскамі. Яго латыфундыя падзялялася па сталовыя ўладанні, прыбыткі з якіх ішлі на задавальненне патрэб біскупа і яго двара, і капітульных маёнткаў. У 1653 каталіцкай царкве ВКЛ належалі 18 703 дымы, а ў 1790 — 50 274 дымы. У пач. 19 ст. ў Віленскім біскупстве 694 касцёлы мелі 222 646 га зямлі. Уладанні правасл. і уніяцкай цэркваў значна саступалі каталіцкім. На тэрыторыі, што адышла да Рас. імперыі ў 1772, каталіцкай царкве належалі 35 943 селяніны мужчынскага полу, а уніяцкай і праваслаўнай — 6340 і 1075 адпаведна. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі царк. маёнткі часткова забраны ў казну. Пасля падаўлення паўстання 1830—31 многія кляштары зачынены, а іх зямельныя ўладанні секулярызаваны. У 1841—44 падпісаны шэраг указаў аб пераводзе ў дзярж. маёмасць усіх населеных маёнткаў правасл. і іншавернага духавенства.

*Літ.*: Ochmański J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego (1387—1550). Poznań, 1963; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971; Сосна У.А. Фарміраванне саслоўнагрупавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII—першай палове XIX ст. Мн., 2000.

**Цвярское вялікае княства**, руская дзяржава ў 1247—1485. Узнікла на землях смаленскіх крывічоў як удзел Пераяслаў-Залескага княства пры падзеле спадчыны вял. кн. Яраслава Усеваладавіча, які загінуў у Ардзе. Першым князем быў Яраслаў Яраславіч (брат Аляксандра Неўскага), з 1264 адначасова вял. князь уладзімірскі. Узвышэнне Цвяры звязана з адносна невял. яе разбурэннямі ў час манголататарскага нашэсця і ўзнікненнем тут каля 1265 епіскапскай кафедры, якую заняў былы полацкі епіскап *Сімяон*. Другім цвярскім епіскапам у 1289—1316 быў таксама выхадзец з Полацка Андрэй, сын полацкага кн. *Гердзеня*. Ц.в.к. вяло актыўную барацьбу супраць Масквы за ўладзімірскае княжанне і за паліт. гегемонію на Русі, у якой часта мела падтрымку ВКЛ, з якім, аднак, таксама часта ваявала (1285, 1360 і інш.), найперш за кантроль над раёнам Ржэвы на Верхняй Волзе (гл. *Ржэўская зямля*), дзе да сярэдзіны 20 ст. захоўвалася бел. мова і інш. бел. этнаграфічныя прыкметы (гл. *Тудаўляне*). Цвер — першае рус. княства, якое пачало актыўнае змаганне за вызваленне ад ардынскага ярма ў час паўстання 1327, якое было жорстка задушана Ардой з дапамогай Масквы (што паклала пачатак узвышэнню *Маскоўскага вялікага княства*). Тытул «вялікіх» канчаткова замацаваўся за цвярскімі князямі ў сярэдзіне 14 ст. Асабліва цесныя адносіны паміж ВКЛ і Ц.в.к. існавалі пры Альгердзе, які быў жанаты з цвярской князёўнай *Ульянай Аляксандраўнай*. З цвярской князёўнай быў жанаты і Свідрыгайла, а цвярскія князі — з дочкамі Гедзіміна, Кейстута, Уладзіміра Альгердавіча, Сямёна Алелькавіча. У 1406 Цвер выступіла супраць ВКЛ на





Да арт. **Цвярское вялікае княства**. Ісус Хрыстос з князем Міхаілам Яраславічам і княгіняй Аксінняй на фоне Цвярскога крамля. Мініяцюра з «Хронікі Георгія Амартола». 14 ст.

баку Масквы ў *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08*. Найбольшага эканам. і культ. росквіту Ц.в.к. дасягнула ў першыя дзве трэці 15 ст. (адным са сведчанняў таго з'яўляецца падарожжа Афанасія Нікіціна ў Індыю), але пры вял. кн. *Міхаіле Барысавічу* [1461—85], які спрабаваў захаваць незалежнасць Цвяры ад Масквы з апорай на ВКЛ, адбыўся хуткі занепад цвярской дзяржаўнасці. Кароль польскі і вял. князь літоўскі Казімір, нягледзячы на саюзныя абавязацельствы паводле дагавораў 1449 і 1484, не аказаў дзейснай падтрымкі Ц.в.к., што прадвызначыла далучэнне Цвяры да Маскоўскай дзяржавы ў 1485 і ўцёкі Міхаіла Барысавіча ў ВКЛ. Ліквідацыя свайго самага моцнага сярод рус. княстваў гіст. канкурэнта дала магчымасць Маскве пачаць адкрытае змаганне з ВКЛ за бел. і ўкр. землі.

*Літ.*: Белы А. «Краіна вытокаў» // Спадчына. 1993. № 3; Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.): Пер. с нем. Тверь, 1994.

***Алесь Белы.***

**Целяханская фаянсавая мануфактура**. Заснавана кн. Міхалам Казімірам *Агінскім* каля 1775—78 у мяст. Целяханы Пінскага пав. (цяпер вёска ў Івацэвіцкім р-не). Існавала да 1830. У 1797 называлася «Фаянсавая фабрыка сяла Целяханы», якую ўтрымліваў каморнік Слонімскага пав. Ф.Шпакоўскі.



Ваза вытворчасці **Целяханскай фаянсавай мануфактуры**. Канец 18 ст.

Сярод вырабаў дэкаратыўныя вазы, упрыгожаныя рэльефнымі дэкорамі і пакрытыя празрыстай паліхромнай палівай. Характэрныя дэкаратыўныя матывы — жаночыя маскі, жывёлы, кветкі, гірлянды. Выраблялі фрызы, карнізы для аздаблення камінаў і пячэй, скульптуру малых форм, свечачнікі, кафлю, у т.л. камплекты для камінаў, а таксама посуд «белы» (без размалёўкі) і размаляваны кветкавымі букетамі чырвонага колеру: талеркі, паўміскі круглыя з накрыўкамі і без іх, чайнікі, кубачкі са сподкамі, масляніцы авальныя, супнікі акруглыя з накрыўкамі, кафлі белыя і зялёныя. Вырабы мелі пад палівай знакі «СО» або «О» бронзавага ці малінавага колеру.

***Мая Яніцкая.***

**Церашчатава** Вольга Васілеўна (24.7.1926, г.п. Лоеў Гомельскай вобл.—30.3.1992), беларускі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1968). Скончыла Маскоўскі паліграфічны ін-т (1961). Удзельніца Вял. Айч. вайны. З 1966 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (з 1978 заг. сектара і Музея стараж.-бел. культуры). Даследавала стараж.-бел. выяўленчае мастацтва (графіку, фрэскавы жывапіс). Складальнік, аўтар артыкулаў і ўступаў кн. «Музей старажытнабеларускай культуры: Каталог экспазіцыі» (1983), «Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці» (1984), «Помнікі культуры: Новыя адкрыцці» (1985). Адзін з аўтараў «Гісторыі мастацтва народаў СССР» («История искусств народов СССР», Москва, т. 8, 1977), «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (1984—87), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—4, 1987—90).

*Тв.*: Беларуская кніжная графіка 1917—1941. Мн., 1978; Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986.

**Цеханавецкі** (Ciechanowiecki) Анджэй Станіслаў (н. 28.9.1924, Варшава), гісторык мастацтва, музеязнавец, мецэнат. З роду *Цеханавецкіх*. Скончыў Гандлёвую акадэмію (1947) і Ягелонскі ун-т у Кракаве (1950). У 1958 выехаў за мяжу, стажыраваўся і выкладаў у Вялікабрытаніі, ЗША, ФРГ. У Цюбінгенскім ун-це абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную Слонімскаму тэатру Агінскіх. З 1961 жыве ў Лонда-



не, займаецца выкладчыцкай, навукова-экспертнай і музейнай дзейнасцю. Аўтар кн. «Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме» (1961, бел. пер. 1993), «Нясвіж: Міжнародны цэнтр культуры ў Беларусі (з XVI да XX ст.)» (1994), мастацтвазнаўчых артыкулаў. Вывучае гісторыю гарадоў Мір і Нясвіж, аказвае дапамогу ў рэстаўрацыі іх культ. помнікаў. Чл. праўлення культ. фондаў у Польшчы, даверчая асоба Каралеўскага замка ў Варшаве, дзе стварыў уласны «Фонд імя Цеханавецкіх» (1984). Як член-сузаснавальнік Міжнар. асацыяцыі беларусістаў прыняў удзел у 1-м міжнар. кангрэсе беларусістаў (Мінск, 1991), удзельнічаў у арганізацыі канферэнцый, прысвечаных ВКЛ і бел.-літ. узаемаадносінам у Лондане, Мінску і Гервятах (Гродзенская вобл.). Падараваў бел. музеям слуцкі пояс, краявід Нясвіжа, рэдкія кніжныя выданні. Ганаровы д-р БДУ (1993), ганаровы старшыня Бел.-польскай культ. камісіі (1993), ганаровы грамадзянін г. Заслаўе (1995).

***Адам Мальдзіс.***

**Цеханавецкія** (у 15—16 ст. ЦехаНоўскія), магнацкі род герба «Дамброва». Паходзяць ад Мацея (Мацкі) Пашкавіча Струмілы, намесніка медніцкага ў 1497, саўладальніка Дмошына і Цеханаўца на Падляшшы (адсюль прозвішча), старэйшага брата родапачынальніка *Кішкаў* Пятра Пашкавіча Струмілы-Цеханавецкага Кішкі. У 18—20 ст. некаторыя прадстаўнікі роду ўжывалі графскі тытул (у 1975 прызнаны за бачэйкаўскай галіной роду ў Італіі, пасля ў Мальтыйскім ордэне). У 15 ст. род валодаў маёнткамі на Падляшшы і ў Мельніцкай вол., з 1-й пал. 16 ст. іх асн. ўладанні знаходзіліся ва ўсх. Беларусі: Мсціслаўскім і Полацкім ваяв., Віцебскім і Аршанскім пав. Найб. вядомыя:

Нікадзім Янавіч (?—1549), падстолі ВКЛ прыкладна з 1536, адначасова маршалак гаспадарскі з 1546, дзяржаўца крэўскі, староста мельніцкі і ласіцкі, пасол у Маскву ў 1536 і 1541, камісар пры размежаванні Себежскага пав. з Расіяй у 1546.

Андрэй Нікадзімавіч (?—паміж 1594 і 1596), сын Нікадзіма Янавіча. Першы ў родзе ўладальнік Бачэйкава ў Полацкім ваяв. — да 20 ст. аднаго з асн. родавых гнёздаў Ц.

Станіслаў Андрэевіч (паміж 1562 і 1565—98), сын Андрэя Нікадзімавіча. Стольнік аршанскі, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1593 і 1596.

Крыштоф Станіслававіч (?—1655), сын Станіслава Андрэевіча. Староста мсціслаўскі (каля 1650—52), кашталян мсціслаўскі ў 1653—55, ваявода менскі ў 1655.

Мікалай Валяр'ян (?—1672), сын Крыштофа Станіслававіча. Староста мсціслаўскі (з 1652) і опсаўскі, ваявода мсціслаўскі з 1659, 4 разы выбіраўся маршалкам Трыбунала ВКЛ.

Альбрыхт Канстанцін (?—12.6.1675), сын Крыштофа Станіслававіча. Староста опсаўскі і аршанскі, палкоўнік, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, у 1663 часова камандаваў войскамі ВКЛ, абозны ВКЛ з 1664.

Аляксей (Аляксандр ?) Хрыстафоравіч, у 1656 выехаў на службу ў Расію, дзе прыняў праваслаўе, ваявода мезенскі і кеўрольскі ў 1664—66.

Юзаф (1741 або 1748—паміж 1801 і 1804), сын Фелікса Нікадзіма. Ген.-ад'ютант ВКЛ (1770), сакратар пасольства Рэчы Паспалітай у С.-Пецярбургу (да 1773). У маёнтку Бачэйкава пабудаваў палац (каля 1769) і школу для сял. дзяцей.

Прозвішча Ц. з 1-й пал. 16 ст. насілі ў Польшчы нашчадкі Ганны Станіславаўны, унучкі Мацея Пашкавіча, ад шлюбу са шляхціцам Янам Угрынам-Швейкам герба «Тшаска», якія валодалі часткай Цеханаўца і прынялі герб «Дамброва». Дробнамаёнткавы род Ц. (першапачаткова Цеханоўскія, Ціханоўскія) герба «Дамброва» вядомы ў Мсціслаўскім ваяв. (пасля ў Магілёўскай губ.), іх роднасць з магнацкай сям'ёй не даказана.

*Літ.*: Цехановецкий В.П. Хроника одного поместия: Бочейково. Витебск, 1905; Dumin S., Rachuba A., Sikorska-Kulesza J. Ciechanowieccy herbu Dąbrowa. Warszawa, 1997; Rachuba A. W kwestii genealogii Ciechanowieckich herbu Dąbrowa // Rocznik Polskiego Towarzystwa Heraldycznego. Warszawa, 1999. T. 4 (15).

***Станіслаў Думін.***

**Цёлак** (Ciołek) Эразм (псеўд. Вітэлій, Vitelius; 1474, Кракаў—9.9.1522), дзяржаўны, царкоўны і культурны дзеяч Польшчы і ВКЛ, гуманіст, мецэнат. З мяшчан. У 1485—91 вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, дзе атрымаў званні бакалаўра (1487) і магістра (1491); выкладаў там у 1491—93. Наладзіў сувязі з кракаўскімі гуманістамі, у т.л. з *Калімахам*. У 1494—1500 працаваў у велікакняжацкай канцылярыі Аляксандра ў Вільні, пасля ў кароннай канцылярыі. Віленскі канонік з 1499, пасля дэкан і прэпазіт, з 1502 канонік кракаўскі, пазней пазнанскі, куяўскі і вроцлаўскі, з 1503 біскуп плоцкі. У 1501—02 і 1504—06 узначальваў пасольствы Аляксандра да рымскага папы; дамогся ад яго зацвярджэння *Тарунскага міру 1466*. У 1518—21 узначальваў пасольства да германскага імператара ў Аўгсбургу і да рымскага папы, у склад якога ўключыў М.*Гусоўскага*. У 1521 з-за асабістых амбіцый быў вызвалены ад абавязкаў пасла і застаўся ў Рыме, дзе і памёр (пахаваны ў касцёле Санта-Марыя дэль Попала). Падтрымліваў перапіску з многімі манархамі Еўропы, царк. іерархамі, пісьменнікамі і вучонымі. Выдаў свае дыпламатычныя прамовы. Цікавіўся антычнай л-рай, геаграфіяй (меў выдатны збор карт), музыкай (трымаў уласную капэлу). Сабраў каштоўную б-ку, для якой заказваў ілюмінаваныя кнігі. Апекаваў таленты ў Польшчы і ВКЛ. Паводле яго прапановы Гусоўскі для рымскага папы Льва X напісаў паэму «Песня пра зубра». На надмагіллі В. змешчана эпітафія аўтарства Гусоўскага. Дзейнасць В. садзейнічала пашырэнню рэнесансава-гуманістычных поглядаў у Беларусі і ведаў пра яе ў Еўропе.

*Літ.*: Hartleb K. Działalność kulturalna biskupa-dyplomaty E.Ciołka. Lwów, 1929; Folwarski H. Erazm Ciołek: Biskup i dyplomata. Warszawa, 1935.

***Валерый Пазднякоў.***

**цівун**, 1) кіраўнік феадальнага двара-маёнтка. У 15 ст. прызначалі вял. князі для кіраўніцтва велікакняжацкімі дварамі з валасцямі, якія не былі судова-адм. адзінкамі. У кампетэнцыю Ц. ўваходзіла вядзенне дваровай гаспадаркі, збор данін і інш. павіннасцей з валаснога насельніцтва, а таксама суд над ім (мясц. шляхта не была пад юрысдыкцыяй Ц.). З пач. 16 ст. такія Ц. пачалі звацца *дзяржаўцамі*. Старая назва захавалася толькі за Ц. віленскім, троцкім і жамойцкім. 2) Ц.-гуменнікі — катэгорыя *сялян-слуг*, якія загадвалі вядзеннем панскай дваровай

гаспадаркі. Яны адказвалі за захаванне і расход зерня, гадоўлю пры двары жывёлы і інш. Як прадстаўнік уласніка маёнтка Ц. прысутнічаў на судзе трымальніка ўладання, судзіў простых людзей, сачыў за працай сялян у маёнтку і інш. Ц. прызначаў уласнік маёнтка (ці яго прадстаўнік) з сялян, чэлядзі дворнай, часам са шляхты. За выкананне абавязкаў Ц. даваўся вольны ад павіннасцей надзел зямлі або яго надзел вызваляўся ад інш. павіннасцей. У 17—18 ст. акрамя гэтага Ц. атрымліваў грашовае і натуральнае ўтрыманне або толькі такое ўтрыманне.

***Аляксандр Доўнар.***

**цівуншчына**, падатак у ВКЛ у 15—сярэдзіне 16 ст. Першапачаткова збор у валасцях на карысць велікакняжацкіх *цівуноў* як плата за выкананне імі адм. функцый. З сярэдзіны 15 ст. збіралася ў велікакняжацкі скарб, аднак вял. князі ВКЛ маглі аддаваць збор Ц. ў валасцях сваім баярам за службу. Мела фіксаваны памер, часцей збіралася грашыма, радзей мёдам. Пры вял. кн. Казіміру [1440—92] Ц. з г. Магілёва і волосці складала 80 коп грошаў. У ходзе правядзення *валочнай памеры* і інш. рэформ Жыгімонта II Аўгуста Ц. заменена на інш. падаткі.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 131—133.

**Ціла** (Tyla) Антанас (н. 28.10.1929, в. Бічоняй Анікшчайскага р-на, Літва), літоўскі гісторык. Д-р габілітаваны (1988), праф. (1995). Скончыў Вільнюскі ун-т (1956). З 1958 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы, у 1989—92 заг. Археаграфічнага аддзела, у 1992—99 дырэктар ін-та. Выкладае ў Каўнаскім ун-це. Даследуе гісторыю ВКЛ 16—17 ст. (паліт. культуру дзяржавы, арганізацыю дзярж. скарба, ваеннай справы, узаемаадносіны са Швецыяй, і інш.), Літвы 2-й пал. 19—пач. 20 ст., падзеі рэвалюцыі 1905—07 у Літве. Аўтар кнігі «Літва і Лівонія ў канцы XVI—пачатку XVII ст.» («Lietuva ir Livonija XVI a. pabaigoje—XVII a. pradóioje», Вільнюс, 1986). Складальнік і рэдактар выданняў «Судзебнік Казіміра (1468 г.)» [«Kazimiero teisyno (1468 m.)», Вільнюс, 1967], «Прывілеі і акты літоўскіх магдэбургскіх гарадоў» («Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai», т. 1—3, Вільнюс, 1991—2002) і інш.

*Тв.*: 1905 metų revoliucija Lietuvos kaime. Vilnius, 1968; Garšvių knygnešių draugija. Vilnius, 1991; Political, Cultural and Economic Relations between Lithuania and Livonia in the Sixteenth—Seventeenth Century // La Via Dell' Ambra. Dal Baltico All' Alma Mater. Bologna, 1994; Znaczenie pospolitego ruszenia w obronie Wielkiego Księstwa Litewkiego w XVI—XVII w. // Profesor Henryk łowmiański: Życie i dzieło. Poznań, 1995; Staats- und Finanzpolitik des Grossfürstentums Litauen am Ende des 16. und Anfang des 17. Jahrhunderts // Forschungen zur osteuropaischen Geschichte. Berlin, 1996. Bd. 52.

*Літ.*: Antanas Tyla: bibliografinė rodyklė 1955—1999. Vilnius, 1999; Istorijos akiračiai: skiriama profesoriaus habilituoto daktaro Antano Tylos 75-mečiui. Vilnius, 2004.

**Цітавянскі кляштар бернардзінцаў.** Заснаваны ў мяст. Цітавяны ў Жамойці (цяпер г. Цітувенай у Кельмскім р-не, Літоўская Рэспубліка) у пач. 17 ст. вял. харужым ВКЛ Андрэем Валовічам. Знаходзіцца на беразе воз. Брыдвайшыс. Складаецца з касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі, жылых карпусоў, унутранага двара з аркаднымі галерэямі, капліцы Св. Духа. Комплекс мае рысы готыкі, Рэнесансу, барока, ракако. Касцёл — 3-нефавая базіліка з доўгім прэсбітэрыем і высокім дахам і стральчатымі вокнамі. Гал. фасад упрыгожаны дзвюма 4-яруснымі вежамі і высокім 2-ярусным франтонам. Унутры алтары ў стылі ракако. Касцёл пабудаваны ў 1614—39 (будаўнік Т.Каспер?), вежы і франтон — у 1759—71. У 1783 інтэр'еры рэканструяваны ў стылі барока. Да касцёла з усх. боку прыбудаваны 3 жылыя 2-павярховыя корпусы, упрыгожаныя парталамі, карнізамі, фрызамі ў стылі Рэнесансу, якія ўтвараюць невял. ўнутраны двор. Франтон рызаліты гал. корпуса 3-ступеньчаты. Планіроўка памяшканняў анфіладная, некаторыя з іх распісаны ў 18 ст. фрэскамі. У кляштары была школа для шляхты. У 1771—73 насупраць касцёла пабудаваны аркадныя галерэі, якія ўтвараюць двор; яны ўпрыгожаны 27 фрэскамі (1824), гарэльефнымі кампазіцыямі. У цэнтры двара ў 1775 узведзена 2-ярусная капліца, на яе франтоне картуш з гербам фундатара Ю.Гружэўскага. У 1864 кляштар зачынены. Рэстаўрыраваны ў 1961—65.



**Цітавянскі кляштар бернардзінцаў.**

*Літ.*: Абрамаускас С., Зволинскас Г. Архитектурный ансамбль в Титувенай // Архитектурное наследство. М., 1957. Вып. 8.

**Цітоў** Анатоль Кірылавіч (н. 27.11.1947, г. Дрэздэн, Германія), беларускі гісторык, геральдык, сфрагіст, архівіст. Скончыў БДУ (1975). З 1975 навук. супрацоўнік, старшы палеограф Цэнтр. дзярж. архіва БССР у Мінску, з 1983 выкладаў у Мінскім ін-це культуры, з 1994 старшы навук. супрацоўнік Бел. навук.-даследчага ін-та справаводства і архіўнай справы, у 1998—2002 выкладчык Гуманітарна-эканам. недзярж. ін-та. Даследуе бел. геральдыку, сфрагістыку, генеалогію, гіст. геаграфію, гісторыю рамесных цэхаў, ювелірнай справы. Аўтар насценнага календара-альбома «Шляхамі Францыска Скарыны» (1989). Чл. геральдычных таварыстваў Украіны, Польшчы, ганаровы чл. Усерасійскага геральдычнага таварыства.

*Тв.*: Гербы беларускіх гарадоў. Мн., 1983; Гарадская геральдыка Беларусі. Мн., 1989; Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі. Мн., 1993; Наш сімвал Пагоня: Шлях праз сгагоддзі. 2 выд. Мн., 1993; Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993 (з Л.Р.Казловым); Геральдыка беларускіх местаў (XVI—пачатак XX ст.). Мн., 1998; Сфрагістыка і геральдыка Беларусі: (іл. курс лекцый). Мн., 1999; Менск — места майстроў. Мн., 2002.

**Цітоў** (Тітов, Титов) Фёдар Іванавіч (8.2.1864, с. Чаркаскае-Парэчнае Суджанскага пав. Курскай губ.— 20.12.1935), расійскі гісторык царквы, археограф. Д-р царк. гісторыі (1905), праф. ардынарны (1909). Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1890), дзе пасля выкладаў. Адначасова з 1896 настаяцель кіеўскай царквы св. Андрэя Першазванага, з 1905 протаірэй. З 1901 рэдактар неафіцыйнай часткі газ. «Киевские епархиальные ведомости». У 1918 эміграваў, памёр у Бялградзе. Даследаваў гісторыю правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай у 17—18 ст., гісторыю Кіеўскай духоўнай акадэміі, манастыроў і цэркваў, кнігадрукавання пры Кіева-Пячэрскай лаўры. Выдаў зборнікі дакументаў *«Помнікі праваслаўя і рускай народнасці ў Заходняй Расіі ў XVII—XVIII стст.»* (т. 1, ч. 1—3, Кіеў, 1905), «Акты и документы, относящиеся к истории Киевской Академии» (т. 1—4. Кіеў, 1910—13), «Матеріяли для історії книжної справи на Вкраїні в XVI—XVIII вв.: Всезбірка передмов до українських стародруків» (Кіеў, 1924).

*Тв.*: Русская православная церковь в польско-литовском государстве в XVII—XVIII вв.: Опыт церковно-ист. исслед. (1654—1795). Т. 1—3. Киев, 1905—07; Благоверный князь Константин Константинович Острожский. Киев, 1908; Императорская Киевская духовная академия в ее трехвековой жизни и деятельности (1615—1915): Ист. записка. Киев, 1915; Заграничные монастыри Киевской епархии в XVII—XVIII вв. Ч. 1. Киев, 1916; Типография Киево-Печерской Лавры: Ист. очерк (1606—1616—1916 гг.). Т. 1. Киев, 1918; Стара вища освіта в київській Україні кінця XVI—поч. XIX ст. Київ, 1924.

**Ціхановіч** (Ciechanowicz) Ян (н. 2.7.1946, в. Варняны Астравецкага р-на), беларускі і польскі мовавед, культуролаг, філосаф, гісторык, грамадскі дзеяч. Канд. філасофскіх навук (1983), дацэнт (1986). Скончыў Мінскі ін-т замежных моў (1971). З 1969 працаваў у Ін-це філасофіі і права АН Беларусі, у 1975—85 выкладаў у Вільнюскім ун-це, адначасова ў 1983—86 працаваў у Вільнюскім філіяле Акадэміі грамадскіх навук у Маскве, у 1986—91 выкладаў у Вільнюскім пед. ун-це, у 1993—94 — у Вышэйшай пед. школе ў Быдгашчы, у 1994—2003 — у Ін-це германскай філалогіі Жэшаўскага ун-та. У 1989—91 дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Даследуе праблемы філасофіі, культуру палякаў у свеце, генеалогію шляхецкіх родаў ВКЛ.

*Тв.*: W kręgu postępowych tradycji. Kowno, 1987; Na wileńskiej Rossie. Poznań, 1990 (з Б. і М. Косманамі), Z rodu polskiego. T. 1—2. Rzeszów, 1999; Myśl i czyn. Mołodeczno, 2001; Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. 1—6. Rzeszów, 2001—03; Zdobywca Azji: (Mikołaj Przewalski 1839—1888). Mołodeczno, 2002.

**«Цуды святога Міколы ў Лукомлі»,** помнік беларускай літаратуры канца 14—пач. 15 ст. Складаецца з 2 невял. тэматычна звязаных апавяданняў («цудаў»), створаных 2 невядомымі аўтарамі ў Лукомлі. 1-ы «цуд» датуецца 1392 або 1402. 2-і — больш познім часам. Вядомы ў 2 рэдакцыях, 1-я бліжэй да пачатковай, 2-я — наўгародская перапрацоўка. У 1-м «цудзе» паведамляецца пра з'яўленне св. Міколы Жыдзічынскага лукамляніну Парфенію і загад святога заснаваць царкву ў яго імя, што і было зроблена. 2-і «цуд» змяшчае пералік хворых, якіх цудоўным чынам вылечыў св. Мікола Лукомскі; названы 15 чал. з 14 населеных пунктаў, у т.л. з Менска, Барысава, Друцка, Оршы, Масквы, Смаленска, Дарагабужа. Помнік цікавы шэрагам гіст. звестак, якія адлюстроўваюць ваеннапаліт. сітуацыю ў паўн. Беларусі, асаблівасці грамадскага і рэліг. жыцця, тапаграфію Лукомля ў канцы 14—пач. 15 ст. Вывучаны недастаткова.

*Літ.*: Никольский Н.К. Материалы для истории древнерусской духовной письменности. СПб., 1907; Тихомиров М.Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968; Калубовіч А. Невядомыя апавяданьні XIV і XV стст. // Божым шляхам. 1975. № 3/4; Турилов А.А. К изучению «Сказания о явлении и чудесах Николы Чудотворца в Лукомле» // Наш радавод. Гродна, 1992. Кн. 4, ч. 1.

*Васіль Варонін.*

**цыганы** (саманазва рома), этнічная група ў ВКЛ. Перавандравалі ў 15 ст. праз Германію і Польшчу, у канцы 16—пач. 17 ст. з Венгрыі. Першае дакументальнае ўпамінанне пра Ц. на Беларусі (у Нясвіжы) датуецца 25.5. 1501., тады ж згадваецца іх кіраўнік, старшы войт Ц. Васіль. Ц. вялі вандроўны лад жыцця, захоўвалі трывалую сац. структуру (плямёны пад уладай выбарных войтаў, ваявод), побытавую спецыфіку. Гал. месца збору вандроўных груп — мяст. Зэльва. У 17 ст. улады Рэчы Паспалітай спрабавалі прывучыць Ц. да аселага жыцця і далі ім адм. паўнамоцтвы: выбарныя вярхоўныя правіцелі называліся цыганскімі каралямі, надзяляліся неабмежаванай уладай над Ц. Паўнамоцтвы «каралёў» зацвярджалі магнаты ВКЛ ці каралеўская канцылярыя. У розны час пасаду «караля» Ц. ВКЛ у Рэчы Паспалітай займалі: Знамяроўскі, Міласьніцкі, Я.Марцінкевіч, Ф.Багуслаўскі. Аселыя Ц. пражывалі ў мяст. Мір. Займаліся рамёствамі, засноўвалі сукнавальні, кузні і інш. У 1790-я г. колькасць Ц. на бел. землях скарацілася (са сваімі «каралямі», «баронамі» перасяляліся ў Бесарабію, Малдову і Валахію). Вандраванне без ранейшых кіраўнікоў ва ўмовах абавязковай аселасці ставіла іх па-за законам. Але і прыпісаўшыся да абшчын пэўных паселішчаў, Ц. жылі асела толькі ў халодную пару года (звычайна па хатах і гумнах сялян, пазней сталі заводзіць свае жыллё). Вясною, звычайна ў пач. мая, табарам (3—5 сем'яў) пад кіраўніцтвам выбарнага важака адпраўляліся ў вандроўкі. Важак вызначаў час і напрамак вандровак, спосаб здабывання сродкаў да існавання, быў афіцыйным прадстаўніком табара перад мясц. уладамі. Для вырашэння спрэчак і канфліктаў існаваў цыганскі суд, у які ўваходзілі найб. паважаныя і старэйшыя па ўзросце члены табара. Жанчыны поўнасцю падпарадкоўваліся бацьку, потым мужу, займаліся варажбой, папрашайніцтвам, знахарствам, спевамі і танцамі, клапаціліся пра забеспячэнне сям'і харчаваннем. Заняткі мужчын — канакрадства, гандаль коньмі, канавальства, рамёствы (кавальства, пляценне кашоў, разьба па дрэве) і інш. Месцам збору розных груп Ц. былі кірмашы (найб. збіраліся ў Хальчы, Ветцы, Віцебску, Гомелі). Ц. выконвалі абрады таго народа, сярод якога жылі, і традыцыйныя. На Вялікдзень, Сёмуху, Пятра ва ўмоўленых месцах (у лесе і інш.) некалькі вандроўных груп з'язджаліся для супольнага святкавання. Невялік. вандроўкі рабілі нават аселыя Ц. Шматлікія захады ўлад па прымусовым асяленні, скарачэнні вандровак былі неэфектыўныя. Іл. гл. ў т. 1, с. 66.

*Літ.*: Данилович И. Историческое и этнографическое исследование о цыганах



// Северный архив. СПб., 1826. Ч. 19—20, № 1—6; Narbutt T. Rys historyczny ludu cygańskiego. Wilno, 1830; Добровольский В.Н. Киселевские цыгане. СПб., 1908; Даўгяла Дз.І. Цыганы на Беларусі // Наш край. 1926. № 12; Герман А. В. Библиография о цыганах: Указ. книг и статей с 1780 по 1930 гг. М., 1930; Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Мн., 1992. С. 84—91; Калінін В. Цыганы на Беларусі // 3 гісторыяй на «Вы»: Публіцыст. арт. Мн., 1994. Вып. 2.

*Ігар Карашчанка.*

**ЦЫСТЭРЦЫЯНЦЫ**, манахі каталіцкага Свяшчэннага цыстэрцыянскага ордэна (лац. Sacer Ordo Cisterciensis, SOC). Заснаваны ў 1098 у Бургундыі (Францыя) ва ўрочышчы Сіто каля Дыжона (Citeaux, лац. Cistercium — Цыстэрцыум, адсюль назва Ц.) абатам *бенедыкцінцаў* Робертам, які пакінуў свой кляштар Малем. Цыстэрцыянскі ордэн вылучыўся з бенедыкцінскага, прыняўшы больш жорсткія патрабаванні да манахаў. У 12 ст. ордэн рэарганізаваны Бернарам Клервоскім (першы абат цыстэрцыянскага кляштара Клерво ў Бургундыі), таму Ц. называюць таксама бернардзінцамі (адрозніваюцца ад *бернардзінцаў* — францысканцаў-абсервантаў). Статут 1119 прадпісваў Ц. суровы рэжым аскетызму, гаспадарчае самазабеспячэнне на падставе ўласнай фізічнай працы (сельская гаспадарка, рамяство), але ад гэтага Ц. ў хуткім часе адышлі. Ц. выпрацавалі новы архітэктурны тып кляштара, пры якім касцёл, жылыя і гаспадарчыя пабудовы ўтваралі замкнёны прамавугольны комплекс. Свае кляштары Ц. засноўвалі ў далечыні ад населеных пунктаў, часта ў лясных нізінах. З дзейнасцю Ц. звязваюць узнікненне і распаўсюджванне ў Еўропе гатычнага архітэктурнага стылю. З 1135 у касцёлах Ц. забараняліся жывапісныя і скульптурныя выявы, акрамя Распяцця. Аднак з 13 ст. ў іх касцёлах пачалі з'яўляцца разныя капітэлі, потым насценныя размалёўкі і вітражы. Адзенне Ц. — белы габіт з чорным поясам і чорнай доўгай накідкай з капюшонам. Дзякуючы строгай арганізацыі Ц. сталі важным інструментам палітыкі рымскіх пап і выкарыстоўваліся для місіянерства. У 12—13 ст. Ц. — адзін з найб. заможных і ўплывовых каталіцкіх ордэнаў (налічваў больш за 700 абацтваў), аднак у 14 ст. ордэн прыйшоў у заняпад. У 17 ст. перажываў уздым, звязаны з барацьбой супраць пратэстантаў (у гэты час Ц. з'явіліся на Беларусі), у 1664 узнік ордэн рэфармаваных Ц. — трапістаў.

У Польшчы Ц. з'явіліся ў 1140, ажыццяўлялі місіянерскую дзейнасць сярод прусаў. Кляштары Малой Польшчы ў 12 ст. прызначаліся для місіянерства на Русі, аднак гэтыя планы не ажыццявіліся ў сувязі з правалам 2-га крыжовага паходу. Меркаванне, што ў Польшчы Ц. былі піянерамі ворыўнага земляробства, не пацвярджаецца сучаснымі даследаваннямі, аднак яны садзейнічалі пашырэнню новых аграномічных прыёмаў, рамяства, гандлю. Ц. Рэчы Паспалітай складалі Польскую правінцыю, якая была падначалена генералу Ц. у Сіто, у 1772 тут дзейнічалі 62 мужчынскія і 3 жаночыя цыстэрцыянскія кляштары. У ВКЛ цыстэрцыянскія кляштары існавалі ў Вістычах у Берасцейскім ваяв. (фундаваў у 1670 Яўстафій Тышкевіч, падкаморы берасцейскі; скасаваны ў 1832; гл. *Вістыцкі кляштар цыстэрцыянцаў*), у Алізаравым Ставе каля Вістычаў (фундаваў у 1710 Ян Камароўскі, пісар земскі мазырскі, і яго жонка Тэрэза з Пшэрадоўскіх; скасаваны да 1830), у Кімбараўцы каля Мазыра (цяпер у межах горада, мужчынскі кляштар фундаваў у 1711 Антоній Аскерка, кашталян навагародскі, і інш., скасаваны ў 1864; жаночы кляштар фундаваў у 1743 ксёндз Бенядзікт Ражанскі, Казімір Сапега і інш., скасаваны ў 1888; гл. *Кімбараўскія цыстэрцыянскія кляштары*).

*Літ.*: Historia i kultura cystersów w dawnej Polsce i ich europejskie związki. Poznań, 1987; Cystersi w kulturze średniowiecznej Europy. Poznań, 1992.

*Валерый Пазднякоў.*

**ЦЭНЗУРА** (лац. censura ад censeo ацэньваю, выказваю меркаванне), сістэма дзяржаўнага, духоўнага (царкоўна-рэлігійнага), грамадскага і прыватнага (фінансава-алігархічнага) нагляду і кантролю за друкам.

Апокрыфы, некананічная богаслужэбная л-ра, ератычныя трактаты былі першымі аб'ектамі ўвагі Ц. ў Полацкім, Смаленскім, Тураўскім княствах і інш. усх.-слав. дзяржавах. Другая па старажытнасці дакладна датаваная ўсх.-слав. рукапісная кніга «Ізборнік Святаслава» (1073) змяшчае спіс «праўдзівых» і «непраўдзівых» кніг. Нецярпіма ставіўся да твораў ератыкоў пісьменнік-прапаведнік Кірыла Тураўскі. Цэнзурна-геапаліт. меркаваннямі абумоўлена адлюстраванне многіх гіст. звестак пра Беларусь у летапісах і хроніках суседніх дзяржаў. Відаць, з гэтых прычын зніклі ў час ваенных дзеянняў аўтэнтычныя Полацкі і Навагародскі летапісы. Палітыка правасл. Ц. ў ВКЛ вызначалася Канстанцінопальскім і Маскоўскім патрыярхатамі. «Лацінабоязь» і «нацыянальна-царкоўная ганарлівасць» апошняга (паводле В.В.Ключэўскага) інспіравалі негатыўнае стаўленне да выданняў ВКЛ. Паводле загаду маскоўскага вял. кн. Васіля III была спалена «Біблія» Ф.*Скарыны.* Маскоўскі цар Міхаіл Фёдаравіч і яго бацька мітрапаліт Філарэт выдалі ў 1627 указ, каб «ніхто ніякіх кніг літоўскага друку… не купляў». У 1639 паводле царскага ўказа не пусцілі ў Маскву друкара-асветніка С.*Соболя* з кнігамі. Прыток бел. кніг у Масковію абмяжоўваў і ўказ 1672. Пасля смерці *Сімяона Полацкага* Рус. правасл. царква абвясціла яго творам анафему і забараніла друкаваць іх як ератычныя.

Каталіцкая Ц. вызначалася Ватыканам і манаскімі ордэнамі. Сярэдзіна 16 ст. характарызавалася супрацьстаяннем каталіцкай Ц. і пратэстанцкай царквы, якая набыла значны ўплыў на магнатаў ВКЛ. З гэтым звязана забарона ў 1543 вял. князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам I Старым прывозіць з-за мяжы новыя кнігі і распаўсюджваць новыя вучэнні. Пасля ўздыму пратэстантызму ў ВКЛ у 1550—60-я г. выданні Берасцейскіх, Нясвіжскай, Лоскай друкарняў, у т.л. кніг С.*Буднага* і інш. дзеячаў Рэфармацыі, вельмі часта траплялі пад забарону і знішчэнне. Выразна вызначыўся тут М.К.*Радзівіл* Сіротка, які, між іншым, скупляў і знішчаў наклад *Берасцейскай Бібліі* (1563), выдадзенай яго бацькам кальвіністам М.Радзівілам Чорным. На аснове булы 1575 папы Грыгорыя XIII, згодна з якой езуітам даручалася Ц. кніг і чыстка б-к, у 1581 разрабаваны і спалены б-кі дысідэнтаў (праваслаўных і пратэстантаў) у Вільні. У гэтым жа годзе яшчэ адзін сын Чорнага віленскі біскуп Ю.*Радзівіл* упершыню ўвёў у сваёй дыяцэзіі Ц. друку. Неаднаразова (1603, 1613 і інш.) у Рэчы Паспалітай



выдаваліся інквізітарскія індэксы забароненых кніг, у якія траплялі многія бел. і літ. выданні.

У пратэстанцкім кнігавыданні папярэдняя Ц. кальвінісцкага сінода Рэчы Паспалітай уведзена ў 1579. Змагалася царк. Ц. і з пашырэннем атэізму. У 1689 паводле прыгавору соймавага суда ў Варшаве быў абезгалоўлены і спалены разам са сваім «богазняважальным» трактатам «Аб неіснаванні бога» К.*Лышчынскі*. У 17—18 ст. міжканфесіянальная Ц. сканцэнтравалася ў галіне палемічнай і рэліг.-паліт. публіцыстыкі. Пасля *Берасцейскай уніі 1596* у гэту палеміку часцей вымушаны ўмешвацца свецкая ўлада і магнаты ВКЛ. Пад каралеўска-велікакняжацкай апекай знаходзілася друкарня Мамонічаў у Вільні. У 1610 кароль Жыгімонт III Ваза выдаў 3 граматы аб закрыцці брацкай друкарні Віленскага Святадухаўскага манастыра, зняволенні аўтараў, карэктараў і наборшчыкаў кніг, якія заклікалі «да бунту супраць духоўнай і свецкай улады». Сярод апальных выданняў гал. быў «Фрынас» (1610) М.*Смятрыцкага*. У 1645 *Афанасій Берасцейскі* раіў Жыгімонту III Вазе «выгубити» «книги жидовскіи всюды и чернокнижскіи». Па прапанове караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага гарадзенскім старастам А.*Тызенгаўзам* у 1776 уведзена пасада карэктара і абавязковы папярэдні прагляд (фактычна — папярэдняя Ц.) нумароў *«Газэты Гродзеньскай»*.Духоўная і свецкая Ц. ў ВКЛ грунтавалася на пастулатах свабоды і права, замацаваных у трох Статутах ВКЛ і акце Варшаўскай канфедэрацыі 1573, які канстытуіраваў норму хрысціянскай рэліг. верацярпімасці і цалкам увайшоў у Статут ВКЛ 1588. Духоўная Ц. нехрысціянскіх канфесій абумоўлівалася ўнутр. рэліг. палемікай паміж плынямі іудаізму (хасідызм, артадаксальны рабінскі іудаізм), ісламу (сунізм, шыізм). У заключны перыяд існавання Рэчы Паспалітай *Канстытуцыя 3 мая 1791* абвяшчала свабоду друку і сумлення.

***Валерый Герасімаў.***

**цэнтнер** (ням. Zentner ад лац. centum сто), адзінка масы. У сістэмах мер розных краін вагаўся ад 100 да 112 фунтаў (42—56 кг). Звычайныя англійскі і нямецкі гандлёвыя Ц. = 112 фунтаў = 50,80235 кг. Рас. Ц. у 15—18 ст. вагаўся ад 3,101 да 6,104 пуда. Старапольскі Ц. адпавядаў 40,55 кг. На Беларусі Ц. ужываўся ў гандлі з зах.-еўрапейскімі гарадамі і адпавядаў 4 каменям або 100 фунтам (42,588 кг). У сістэме мер ВКЛ у 1766 Ц. устаноўлены ў 5 каменяў, адпавядаў беркаўцу (74,96 кг).

*Літ.*: Петрушевский Ф. Польская метрология, или Описание польских мер, весов и монет. 2 изд. СПб., 1834; Шостьин Н.А. Очерки истории русской метрологии, XI—начало XX в. 2 изд. М., 1990.

***Яўген Анішчанка.***

**Цэнтральная дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага**, выканаўчы паўстанцкі ўрадавы орган у Літве і зах. Беларусі ў час *паўстання 1794*. У маі—пач. чэрв. 1794 адносіны паміж кіраўнікамі паўстання ў Польшчы і ВКЛ абвастрыліся. Пад націскам кансерватыўных сіл Т.*Касцюшка* 4 чэрв. адхіліў ад улады кіраўніка паўстання ў Літве і Беларусі Я.*Ясінскага* як радыкала ў паліт. поглядах і мясц. сепаратыста. Галоўнакамандуючым літоўска-бел. паўстанцкай арміяй прызначаны няздольны ген.-лейтэнант М.Вяльгорскі. *Найвышэйшая літоўская рада* загадам Касцюшкі 10 чэрв. распушчана, а замест яе ўтворана Ц.д.В.к.Л. з больш памяркоўных дзеячаў. *Найвышэйшая нацыянальная рада* ў Варшаве ўзяла пад свой кантроль кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі. У склад дэпутацыі ўваходзілі 7 дэпутатаў, якія кіравалі аддзеламі і па чарзе ўзначальвалі дэпутацыю, 28 іх намеснікаў. Дэпутацыя была абмежавана ў сваёй дзейнасці. Яна лічылася паўнамоцным прадстаўніцтвам Найвышэйшай нац. рады ў Варшаве і была цалкам падпарадкавана Касцюшку. Дэпутаты былі прызначаны ў Варшаве Найвышэйшай нац. радай, а намеснікі — самой дэпутацыяй. У дэпутацыю ўваходзілі: Ю.Несялоўскі (аддзел скарбу), А.Тызенгаўз (прэзідэнт Вільні, аддзел парадку), Е.Белапятровіч (вайсковы аддзел), В.Гарэцкі (аддзел бяспекі), С.Мірскі (аддзел юстыцыі), Б.Марыконі (аддзел харчавання), Д.Пільхоўскі (аддзел адукацыі). Дэпутацыя знаходзілася ў Вільні, дзейнічала на тэрыторыі, занятай паўстанцамі. У пач. жн. 1794 перад заняццем Вільні рас. войскамі дэпутацыя падзялілася на 2 часткі: Марыконі, Мірскі і інш. выехалі з Вільні ў Гародню, другая частка — у Коўна. Там яны працягвалі ўрадавую дзейнасць. У пач. вер. 1794 дзеячы дэпутацыі сабраліся ў Гародні, у пач. кастр. 1794 пакінулі горад разам з войскамі, што адступілі ў Польшчу.

*Літ.*: Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji kościuszkowskiej. Wiedeń, 1909; Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; Грыцкевіч А.П. Паўстанне 1794 г.: перадумовы, ход і вынікі // Бел. гіст. часопіс. 1994. № 1; Емяльянчык У. Палонез для касінераў: (3 падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі на Беларусі). Мн., 1994; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Цэсіс** (Cēsis), горад у Латвійскай Рэспубліцы, гл. *Вендэн*.

**цэхі** (ад ням. Zeichen знак), аб'яднанні рамеснікаў адной ці некалькіх прафесій у феадальных гарадах. Ствараліся з мэтай абароны рамеснай вытворчасці ад самавольства феадалаў, канкурэнцыі інш. рамеснікаў ва ўмовах вузкага ўнутранага рынку, манапалізацыі вытворчасці і збыту прадукцыі, абароны агульных і асабістых правоў. Унутраная дзейнасць Ц. вызначалася статутамі, якія рэгламентавалі выраб і збыт прадукцыі, якасць сыравіны і гатовых вырабаў, тэхналогію вытворчага працэсу, час і ўмовы работы, арганізацыю навучання і інш. Статуты Ц. у дзярж. гарадах ВКЛ зацвярджаліся вял. князем (каралём), у прыватных гарадах і мястэчках — іх уладальнікамі-феадаламі. Ц. кантралявалі паводзіны сваіх членаў, наладжвалі ўзаемадапамогу. На Беларусі першыя Ц. ўзніклі ў 15 ст. з наданнем гарадам *магдэбургскага права* (ім папярэднічалі аб'яднанні рамеснікаў — брацтвы, якія не мелі пісьмовых статутаў), пашырыліся ў 16 ст. У цэлым бел. Ц. развіваліся на зах.-еўрапейскі ўзор, аднак мелі некат. асаблівасці: яны спалучалі традыцыйныя нормы рамесных аб'яднанняў з новаўвядзеннямі магдэбургскага права; пераважалі мяшаныя Ц., якія складаліся з работнікаў некалькіх спецыяльнасцей; для іх характэрна канфесіянальная цярпімасць. На чале Ц. стаялі *цэхмістры* (старасты), якіх выбіралі штогод; паўнапраўнымі членамі Ц. былі *майстры*, ім падпарадкоўваліся *падмайстры*, *чаляднікі* («таварышы»),

вучні («хлопцы»). У некаторых Ц. выбіраліся дапаможныя службовыя асобы — ключнікі, сталовыя, *шафары*, пісары, інстыгатары. Цэхавыя рамеснікі знаходзіліся пад юрысдыкцыяй *магістрата* і феадалаў. Ц. ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці горада, неслі вайсковую і інш. павіннасці на карысць дзяржавы і ўладальніка горада. Пераважалі Ц. па апрацоўцы металу; пашыраны — па апрацоўцы скур, вырабе адзення, хатняга начыння, будаўнічыя. Для разбору выпадкаў парушэння цэхавых статутаў, цяжбаў і прэтэнзій паміж майстрамі склікаліся спец. сходкі Ц. (праз 2 тыдні або па меры неабходнасці), у гэтым выпадку Ц. ператвараўся ў суд. Права судовага разбору і вызначэння меры пакарання належала цэхмістрам (у некаторых выпадках разам са старэйшымі майстрамі). Апеляцыйным органам для цэхавага суда была гар. рада. У 2-й пал. 18 ст. Ц. ў дзярж. гарадах падначалены *камісіям добрага парадку*, якія пачалі рэформу цэхавых статутаў, імкнучыся захаваць манапольны характар рамесных аб'яднанняў.

*Літ.*: Клименко Ф.В. Западно-русские цехи XVI—XVIII вв. Киев, 1914; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Лютый А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII—первой половине XIX в. Мн., 1987.

**цэхмістр**, старшы, старшыня аб'яднання рамеснікаў — *цэха* ў гарадах ВКЛ. Выбіраўся штогод на агульным сходзе *майстроў* — паўнапраўных членаў цэха са свайго асяроддзя або з больш вузкага іх кола — старэйшых майстроў, што заснавалі цэх, былі найб. заможнымі і інш. Часта практыкавалася 2-ступеньчатыя выбары, калі Ц. выбірала вызначанае загадзя кола майстроў. У малых цэхах быў адзін Ц., у вялікіх — некалькі, часам да дзесятка. Ц. наглядаў за выкананнем членамі цэха ўсіх патрабаванняў цэхавага статута, сачыў за вытворчай дзейнасцю членаў цэха, за якасцю прадукцыі. Правадзіў судовы разбор па ўнутрыцэхавых справах і вызначаў меру пакарання. Захоўваў касу, прывілеі і дакументы цэха. Ц. уваходзіў у склад органа гар. самакіравання — *магістрата*. Ц. буйных цэхаў мелі памочнікаў — падцэхмістраў.

**цяглыя сяляне**, у ВКЛ у 15—18 ст. феадальна-залежныя сяляне, галоўнай формай зямельнай рэнты якіх была *паншчына*. Ц.с. на Полаччыне называліся таксама прыгоннымі людзьмі. Паводле актаў Метрыкі ВКЛ, Ц.с. «с сохою, с серпом, с косою, с топором и иную тягль тянули по тому, как иншие селяне». Узніклі з развіццём *фальварка*. Да сярэдзіны 16 ст. ў бас. Нёмана і Буга Ц.с. сталі асн. катэгорыяй сялянства паводле характару гал. павіннасці. Значная колькасць сялян інш. катэгорый (*даннікаў*, *сялян-слуг*, *баяр*) пераведзена ў катэгорыю Ц.с. У ходзе *валочнай памеры* Ц.с. атрымалі надзел у 1 валоку (21, 36 га), звычайна на 2 двары, якая служыла адзінкай абкладання рознымі павіннасцямі. За карыстанне валокай зямлі Ц.с. адбывалі 2 дні паншчыны ў тыдзень, плацілі натуральныя і грашовыя падаткі, а таксама выконвалі розныя работы. У 16—18 ст. іх зямельныя надзелы скарачаліся, павіннасці раслі.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969; Jurkiewicz J. Powinności włościan w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVII w. Poznań, 1991; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993; Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 1. Мн., 1997.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Цяпінскі** Васіль (1530-я г.—каля 1600), беларускі пратэстанцкі перакладчык і пісьменнік. Паходзіў са шляхецкай сям'і (гаспадарскіх баяраў) з Полаччыны, адна галіна якіх валодала маёнткам Цяпіна пад Чашнікамі, іншая — Латыголічамі (цяпер в. Латыгава пад Маладзечна) і іншымі маёнткамі ў паўн.-зах. Беларусі. Яго бацька Мацвей (?) валодаў Латыголічамі. Ц. каля 1567 служыў малодшым афіцэрам пад камандаваннем аршанскага старасты Ф.Кміты-Чарнабыльскага, сябраваў з ім




В.**Цяпінскі**. Перамалёўка пач. 20 ст. з загінуўшай гравюры 1576.

і далей. У 1560-х г. служыў у падканцлера ВКЛ А.Валовіча, пазней — у троцкага ваяводы С.Збаражскага. Быў жанаты на Зоф'і з роду князёў Жыжэмскіх (пляменніцы Валовіча), меў некалькі дзяцей. Каля 1600 забіты родзічамі — дзецьмі свайго стрыечнага брата Васіля Мікалаевіча, што валодаў Цяпінам. Пра адукацыю Ц. нічога не вядома. Паводле поглядаў належаў да антытрынітараў і быў блізкі да С.*Буднага*, удзельнічаў у некалькіх сінодах пратэстантаў (у Белжыцах у 1569, у Лоску ў 1578 і інш.), дзе дыспутаваў з М.*Чаховіцам* і інш. антытрынітарыямі, адстойваючы погляды Буднага. Магчыма, узначальваў мясц. пратэстанцкую грамаду ці быў пратэстанцкім казнадзеем (прапаведнікам). У 1570-х г. пераклаў і выдаў Евангелле з уласнымі заўвагамі (вядомы 2 дэфектныя экзэмпляры, якія утрымліваюць менш за палову Тэтраевангелля), дадаўшы да яго прадмову (захавалася ў адзіным рукапісе), якая вызначаецца сваімі літ. якасцямі. Гэтай працы ён ахвяраў значную частку сваёй маёмасці. У прадмове Ц., выступаючы з пазіцый рэліг. асветніцтва, даў ацэнку сваёй справе і заклікаў пануючыя колы да яе падтрымкі. Духоўнае адраджэнне грамадства Ц. звязваў з рэліг. асветай — «навукай слова Божага». У выданні Ц. паралельна апублікаваны царк.-слав. тэкст і яго пераклад на старабел. мову. Царк.-слав. тэкст Ц.

запазычыў з т.зв. вузкашрыфтавога Евангелля, надрукаванага ў 1550-х г. у Маскве. Пераклад Ц. вызначаецца дакладнасцю і апрацаванасцю, уплыў на яго мову аказала Біблія ў перакладзе Буднага (Нясвіж, 1572). Заўвагі Ц. на палях выдання маюць шмат спасылак на польскія і царк.-слав. пераклады Евангелля, што сведчыць аб глыбокіх філалагічных росшуках Ц., унікальных для ВКЛ. Шрыфт выдання стылізаваны пад шрыфты кніг Скарыны. Месца друку Евангелля Ц. невядома, але наўрад гэта было ў Цяпіне. Выданне Ц. выкарыстоўваў Будны. Каля 1580 яно захоўвалася ў правасл. Супрасльскім манастыры, а ў 17—18 ст. — сярод стараверaў. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 121.

*Тв.*: Прадмова // Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. Мн., 1991; Evanhelije in der Übersetzung des Vasil Tjapinski um 1580: Facsimile und Kommentare / Hrsg. H.Halenčanka. Paderborn; München; Wien; Zürich, 2005.

*Літ.*: Довнар-Запольский М.В. В.Н.Тяпинский, переводчик Евангелия на белорусское наречие // Довнар-Запольский М.В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. 1; Левицький О. Про Василя Тяпинського, що переклав в XVI ст. Євангеліє на просту мову: Критична розвідка // Записки Українського наукового товариства в Київі. 1913. Кн. 12; Галенчанка Г.Я. Васіль Цяпінскі — паслядоўнік скарынінскай справы // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Яго ж. Васіль Цяпінскі (памёр каля 1600 // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. Вып. 1; Вяроўкін-Шэлюта У. Васіль Цяпінскі і род Слушкаў-Цяпінскіх у 16 стагодздзі // Годнасьць. 1994. № 1; Клімаў І.П. Нарыс бібліяграфіі аб Васілю Цяпінскім // Здабыткі. Мн., 1995. Вып. 1; Яго ж. Пераклад Евангелля В.Цяпінскім // Бел. лінгвістыка. Мн., 1997. Вып. 47; Яго ж. Выданне В.Цяпінскага і яго друкарня // Здабыткі. Мн., 2001. Вып. 4; Яго ж. Змест, кампазіцыя і жанр Прадмовы Васіля Цяпінскага // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2006. Вып. 7.

***Ігар Клімаў.***

**Цярлецкі** (Тарлецкі) Кірыла (свецкае імя невядома, імя па бацьку Сямёнавіч; ?, Піншчына—май 1607), царкоўны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З правасл. шляхецкага роду. У пач. 1570-х г. пратапоп Пінскай царквы св. Дзмітрыя. У час міжкаралеўя 1574—75 прызначаны Радай ВКЛ епіскапам пінскім і тураўскім, што пацвердзіў прывілеем у 1576 кароль Стафан Баторый. Шмат намаганняў прыклаў да маёмаснага ўпарадкавання епархіі, збіраў дакументы, выдадзеныя на карысць правасл. царквы. У 1585 кароль прызначыў яго епіскапам луцкім і астрожскім, што зрабіла Ц. ўплывовай асобай (Луцкая епархія мела каля 40 царк. маёнткаў, у тым ліку 4 мястэчкі). Шмат клапаціўся пра павелічэнне царк. даходаў, вяртанне царк. маёнткаў, якія апынуліся ў прыватным трыманні. У час вяртання з Масквы канстанцінопальскага патрыярха Іераміі ў 1589 атрымаў ад яго ганаровы сан патрыяршага экзарха (фармальна намесніка), што было ўпершыню ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У 1590-х г. Ц. стаў адным з ініцыятараў уніі правасл. царквы з каталіцкай у Рэчы Паспалітай. У чэрв. 1591 на саборы ў Берасці разам з інш. епіскапамі падпісаў грамату аб намеры заключыць унію на пэўных умовах. Ц. было даручана весці перагаворы з мітрапалітам Міхаілам Рагозам, папскім нунцыем і каралём пра заключэнне уніі. Удзельнічаў у выпрацоўцы ў 1594—95 «Артыкулаў» пра ўмовы уніі. Кароль Жыгімонт III пагадзіўся з патрабаваннямі епіскапаў, адзначаў вял. намаганні Ц. ў падрыхтоўцы аб'яднання цэркваў. У вер. 1595 Ц. і епіскап уладзімірскі Іпацій *Пацей* выехалі да рымскага папы Клемента VIII і 23.12.1595 прысягнулі яму. Ц. садзейнічаў паспяховаму правядзенню ў кастр. 1596 сабора ў Берасці, дзе была заключана *Берасцейская унія 1596*. Праціўнікі уніі абвясцілі пра пазбаўленне Ц. сану, але Жыгімонт III узяў яго пад сваю апеку. 30.5.1596 кароль даў Ц. ў кіраванне Кобрынскі Спаскі манастыр, а ў снеж. 1597 выдаў Ц. прывілей на ўладанне багатым Жыдзічынскім манастыром каля Луцка (аднак Ц. не завалодаў ім з-за procідзеяння інш. прэтэндэнтаў). У апошнія гады жыцця Ц. адышоў ад паліт. дзейнасці. Пахаваны, відаць, у Луцку.



Кірыла **Цярлецкі**.

*Літ.*: Левицкий О. Южно-русские архиереи в XVI—XVII в. // Киевская старина. 1882. № 1; Яго ж. Кирилл Терлецкий, епископ Луцкий и Острожский // Памятники русской старины в западных губерниях. СПб., 1885. Вып. 8; Дмитриев М.В. Посольство Ипатия Потия и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595—1596 гг. // Славяноведенне. 1996. № 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Цяцерскі** Міхал (?—12.9.1797), драматург і педагог. Выкладаў у *Забельскім даменіканскім калегіуме*, дзе разам з К.*Марашэўскім* і І.Юрэвічам стварыў школьны тэатр. Для яго перарабіў камедыю Мальера «Лекар паняволі» («Доктар па прымусу», 1787): увёў бел. сялян Хведара і Апанаса (самыя арыгінальныя вобразы ў п'есе), сцэны з якімі нагадваюць традыцыйныя бел. інтэрмедыі, мальераўскі сюжэт напоўніў бел. мясц. каларытам. Напісаў трагедыі «Сапар» (1788), «Феміcтокл» (1790), камедыі «Шлюб, пастаўлены дагары нагамі штучкамі арлекіна» і «Камедыя» (1790—91), празаічную частку тэксту камічнай оперы «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас» (1789) і, як лічаць, арацыю «Пчолы» (1790, усе на польскай мове). Трагедыі на сюжэты з антычнай гісторыі напісаны ў адпаведнасці з эстэтыкай класіцызму. З пазіцый Асветніцтва ў іх асуджаецца дэспатызм, услаўляецца любоў да Айчыны. У камедыях выкрываюцца маральныя заганы бел. феад. грамадства: сквапнасць, інтэлектуальнае ўбоства, франкаманія. Аўтар падручніка па рыторыцы (на лацінскай мове, рукапіс ў б-цы Віньнюскага унта). Рукапісы драматычных твораў зберагаюцца ў Цэнтр. б-цы АН Літвы.

*Тв.*: Доктар па прымусу // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн., 1978.

***Адам Мальдзіс.***

**Цяцерскі** Фаўстын (1760, в. Валынцы? Полацкага ваяв.—1832 або 1833), беларускі грамадскі дзеяч, мемуарыст.



Скончыў Віленскі ун-т. Д-р філасофіі і тэалогіі. Настаўнічаў у кляштарных школах, прыёр Віленскага кляштара дамініканцаў. Удзельнік *паўстання 1794* на Гарадзеншчыне. Пасля яго паражэння стварыў «Віленскую асацыяцыю» для арганізацыі новага паўстання, падтрымліваў сувязі з аднадумцамі-эмігрантамі ў Зах. Еўропе і на Беларусі. У 1797 сасланы на пажыццёвую катаргу ў Забайкалле (Нерчынск). У 1801 амніціраваны, вярнуўся на радзіму. З 1801 прыёр *Забельскага кляштара дамініканцаў*, да 1816 выкладчык Забельскага дамініканскага калегіума. У 1806 напісаў «Успаміны» — адно з першых этнаграфічных апісанняў Дауры (апублікаваны на польскай мове ў 1865 у Львове А.Бялёўскім, рукапіс захоўваецца ў б-цы АН Літвы). У ім апісаў побыт карэннага насельніцтва Сібіры, крытыкаваў царскае чыноўніцтва і правасл. духавенства, стварыў каларытныя партрэты катаржнікаў і ссыльных, выхадцаў з Беларусі. У 1821—32 візітатар школ на Беларусі і ў Літве. Апісаў свае паездкі ў «Дзённіку візітатара» (1904), дзе ёсць звесткі па гісторыі выяўленчага мастацтва і архітэктуры, карціны нораваў феад. грамадства. Рукапіс яго «Дзённіка падарожжа» па кляштарах Беларусі захоўваецца ў б-цы Віленскага ун-та. Працы Ц. па гісторыі і філасофіі Беларусі і Літвы пад назвай «Літоўская хроніка» загінулі ў рукапісах.

*Тв.*: Znaczniejszych przypadków pewnego z Syberii powrotnego Polaka w 1801 r. Warszawa; Wrocław, 1998.

*Літ.*: Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974; Географы і падарожнікі Беларусі: [Альбом-атлас]. Мн., 1999.

***Адам Мальдзіс, Валерый Ярмоленка.***





**Чавускі полк**, гл. ў арт. *Беларускі полк.*

**Чавусы** (цяпер горад, цэнтр Чавускага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав., на р. Бася. Вядомы з сярэдзіны 16 ст. як в. Чавусавічы. З 1589 у складзе Магілёўскай эканоміі. З 1604 горад, у 1634 атрымаў магдэбургскае права і герб з выявай св. Марціна, узброенага мячом, на кані. У 1648 у Ч. 176 дымоў. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Ч. заняты рас. войскамі і падараваны царом Аляксеем Міхайлавічам палкоўніку Бел. палка К.*Паклонскаму*. З вясны 1656 рэзідэнцыя казацкага палкоўніка І.*Нячая*, які ўзначальваў *Беларускі полк.* Увосень 1660 горад вызвалены войскамі Рэчы Паспалітай. У 1708 у час *Паўночнай вайны 1700—21* разрабаваны шведскімі войскамі. Паступова адбудаваны. У пач. 1770-х г. у Ч. каля 2530 ж., больш за 420 дамоў, штогод праводзіўся кірмаш. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**чаляднік**, рамеснік у цэхавага *майстра* ў гарадах ВКЛ. У большасці статутаў цэхаў бел. гарадоў Ч. называўся работнік, які скончыў курс вучнёўства, але не выканаў усіх патрабаванняў, каб перайсці ў *падмайстры.* Назва «Ч.» сведчыла, што работнік займае прамежкавую ступень паміж вучнем і падмайстрам і асабіста залежны ад цэхавага майстра. Паводле статута цэха кушняроў Менска 1647, Ч. лічыўся той, хто не прайшоў гадавой вандроўкі і не адпрацаваў у майстра 1 год і 6 тыдняў пасля навучання. У адрозненне ад падмайстра Ч. атрымліваў плату не на аснове статута цэхаў, а якую дасць майстар. У некаторых цэхах Магілёва Ч. — іншагародні рамеснік, што працаваў за пэўную плату, а не «з трэцяга грошa», як падмайстар. Словамі «Ч.», «чэлядзь» называлі таксама ўсіх работнікаў, якія працавалі ў майстра. З 1-й пал. 17 ст. існавала ўнутрыцэхавая арганізацыя Ч. — гаспода. Яна абмяжоўвала свавольства майстроў і згуртоўвала Ч. у барацьбе з майстрамі за паляпшэнне эканам. і прававога становішча. Гаспода афіцыйна замацоўвалася статутамі цэхаў, існавалі і гасподскія статуты. На чале гасподы стаяў старшына, выбраны на сходзе Ч. Старшыны склікалі сходы, старшынствавалі на іх, вялі рэестр і касу. Сродкі гасподы складаліся з узносаў і штрафаў, выдаткоўваліся на дапамогу і царк. абрады. Гаспода мела некаторыя судовыя паўнамоцтвы: разбірала скаргі Ч., але пасля яе рашэння можна было апеляваць да цэхавага суда.

*Літ.:* Мялешка В.І. Да пытання развіцця дробнатаварнай вытворчасці ў гарадах Беларусі ў другой палавіне XVI—першай палавіне XVII ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1960. № 4; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966.

*Зіновій Капыскі.*

**Чамярыцкі** Вячаслаў Антонавіч (22.7.1936, в. Рабкі Дзятлаўскага р-на), беларускі літаратуразнавец, крытык, тэкстолаг, перакладчык. Канд. філалагічных навук (1967). Скончыў БДУ (1958). З 1958 настаўнік, інспектар Маладзечанскага райаддзела нар. адукацыі, з 1965 навук. супрацоўнік, з 1991 заг. аддзела гісторыі старaж. і новай бел. л-ры Ін-та л-ры НАН Беларусі. Даследуе гісторыю бел. летапісання, бел. л-ру 11—18 ст., творчасць дзеячаў бел. культуры эпохі феадалізму. Удзельнічаў у выданні «Поўнага збору рускіх летапісаў» (т. 32, 1975; т. 35, 1980), дзе ўпершыню апублікаваў *Магілёўскую хроніку*, навук.-папулярнага выдання «Беларускія летапісы і хронікі» (1997), складальнік, аўтар прадмовы і каментарыяў да зб. «Слова пра паход Ігаравы» (1986). Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» на бел. (т. 1, 1968) і рус. (1977) мовах, «Гісторыі беларускай літаратуры XI—XIX ст.» (т. 1, 2006), кніг «Францыск Скарына» (з Г.Я.Галенчанкам, В.Ф.Шматавым, 1979, на франц. мове; 1980, на англ. мове), «Традыцыі літаратуры старажытнай Русі ў беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд» (з А.Коршунавым, А.Лойкам, 1982), «Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей» (кн. 1, 1993), падручніка для ВНУ «Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд» (1985) і дапаможніка «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.)» (1998). Кіраваў рэспубліканскай Скарынаўскай праграмай да 500-

годдзя Ф.Скарыны, навук. рэдактар кніг па скарыназнаўстве. Дзярж. прэмія Беларусі 1994 за ўдзел у стварэнні цыкла прац «Скарына і беларуская культура».

*Тв.*: Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969; Гістарыяграфія беларуска-літоўскага летапісання: (дасав. перыяд) // Книга в Белоруссии. Мн., 1981; Белорусская литература // История всемирной литературы. М., 1985. Т. 3; Беларускі тытан эпохі Адраджэння. Мн., 1990; Беларуская літаратура на рубяжы эпох // Скарына і яго эпоха. Мн., 1990.

***Марыя Аўсяная.***

**Чантурыя** Уладзімір Аляксандравіч (28.6.1923, г. Баку—28.11.1988), беларускі архітэктар, гісторык архітэктуры. Д-р архітэктуры (1965), праф. (1968). Скончыў Азербайджанскі індустрыяльны ін-т (1947). З 1947 у Мінску, працаваў у ін-це «Белдзяржпраект», з 1953 на выкладчыцкай працы, з 1969 заг. кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры Бел. політэхнічнага ін-та. Аўтар прац па гісторыі бел. архітэктуры і адзін з аўтараў праектаў дэталёвай планіроўкі гіст. цэнтраў Гродна (1970) і Віцебска (1972). Пад яго кіраўніцтвам праведзены абмеры помнікаў бел. дойлідства (1954—70) і абследаваны гіст. забудовы гарадоў Беларусі (1971—82). Дзярж. прэмія БССР 1980.

*Тв.*: Архитектура Белоруссии конца XVIII—начала XIX в. Мн., 1962; Белорусский «экватор». Мн., 1981 (у сааўт.); Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982; Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов Белоруссии. Мн., 1983; История архитектуры Белоруссии. 3 изд. Мн., 1985; Белоруссия, Литва, Латвия, Эстония. М., 1986 (у сааўт.); Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Мн., 1986.

*Літ.*: Воинов А.П., Воинов А.А. Устремленность // Строительство и архитектура Белоруссии. 1983. № 3.

**Чантурыя** Юрый Уладзіміравіч (27.7.1949, Мінск), беларускі архітэктар, гісторык архітэктуры. Д-р архітэктуры (2004). Сын У.А.*Чантурыя*. Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1971). Працаваў там жа, у ін-це «Мінскпраект», з 1978 у ін-це БелНДІПградабудаўніцтва (з 1988 заг. сектара, з 1991 заг. аддзела). Выкладае ў Бел. нац. тэхнічным ун-це (дацэнт з 1988). Адзін з аўтараў генпланаў гарадоў Брэст, Орша, серыі малых гарадоў, дэталёвага плана цэнтра г. Пінск, гіст.-архітэктурнага і інжынернага абгрунтаванняў рэгенерацыі гіст. забудовы Гродна, Віцебска, гарадоў Полацк, Слонім, Орша, Камянец, Чачэрск, праекта рэканструкцыі Жыровіцкага Успенскага манастыра і інш. (усе 1980—2000-я г.). Даследуе гісторыю бел. горадабудаўніцтва, рэканструкцыі гіст. раёнаў населеных месцаў.

*Тв.*: Памятники архитектуры в городах Белоруссии. Мн., 1977; Проблемы и опыт реконструкции исторически сложившихся районов больших городов. М., 1987; Архитектурно-планировочная и пространственная организация общественных центров. Мн., 1987 (у сааўт.); Общественные центры городских населенных мест БССР: Опыт формирования, проблемы и направления развития. Мн., 1991 (у сааўт.); Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998 (у сааўт.); Страчаная спадчына. Мн., 2003 (у сааўт.); Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI—первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Мн., 2005.

**Чапскі** (Гутэн-Чапскі) Эмерык Карлавіч [Эмерык Захар'яш Мікалай Севярын; 5(17).11.1828, в.Станькава Менскага пав.—23.7.1896], дзяржаўны дзеяч, калекцыянер, нумізмат. Скончыў Маскоўскі ун-т. З 1851 у Міністэрстве ўнутраных спраў, з 1863 наўгародскі губернатар, з 1865 — пецярбургскі віцэ-губернатар, пасля дырэктар Ляснога дэпартамента Міністэрства дзярж. маёмасцей. У час сял. рэформы 1861 абраны міравым пасрэднікам Мінскага пав. У 1879 пакінуў дзярж. службу і асеў у Станькаве. Заснаваў там музей, дзе зберагаліся манеты, медалі, зброя, творы мастацтва, гіст. дакументы, кнігі і інш. Чл. Рус. археалагічнага таварыства (1851), Маскоўскага нумізматычнага таварыства (1890). Аўтар кн. «Удзельныя, велікакняжацкія і царскія грошы Старажытнай Русі збору графа Э.К.Гутэн-Чапскага» (1875), «Каталог калекцыі польскіх медалёў і манет графа Э.Гутэн-Чапскага» (т. 1—5, 1871—1916). Працы Ч. адзначаны вял. сярэбраным медалём Рус. археалагічнага таварыства, у гонар 25-годдзя яго навуковай працы ў 1896 выбіты медаль (золата, серабро, бронза) ад калег-нумізматаў. У 1894 падзяліў свае маёнткі Станькава і Прылукі паміж сынамі і пераехаў у Кракаў, куды перавёз музейныя зборы (цяпер у складзе Нац. музея).

*Літ.*: Kocójowa M. Emeryk Hutten-Czapski zbieracz i badacz rosyjskich numizmatów // Wiadomości Numizmatyczne. 1976. Z. 4.

***Анатоль Валахановіч.***

**чарадзейства**, абрады, таямнічыя дзеянні, заклінанні з мэтай уплываць на істоты, прадметы і з'явы навакольнага свету. У хрысціянстве ўсе віды Ч. лічацца д'ябальскай дзейнасцю. Хрысціянскія тэолагі адрознівалі 2 віды дэманаў: анёлы, што падтрымалі Сатану ў час яго бунту супраць Бога і ў выніку сталі служкамі д'ябла, і іх дзеці ад зямных жанчын. Меркавалася, што чараўнікі могуць выконваць свае закляцці праз уздзеянне на дэманаў другога віду. Па мэтавай накіраванасці



Да арт. **Чарадзейства**. Медаль, выбіты ў гонар забароны соймам катавання ў судах і скасавання смяротнага пакарання ў справах пра чарадзейства. Медальер І.Ф.Гольцгаўзер. 1776.

Ч. падзяляюць на лячэбнае (знахарства), ваеннае, прамысловае, с.-г., любоўнае і інш. Археалагічныя крыніцы сведчаць пра існаванне магічных уяўленняў на тэр. Беларусі са старадаўніх часоў. 10— 13 ст. датуюцца разнастайныя амулеты-абярэгі ў выглядзе мядзведжых і воўчых іклаў, конікаў, змеевікоў і інш. Каб засцерагчыся ад пажару і маланкі, скарыстоўвалі т.зв. «перуновы стрэлы» — стараж. каменныя сякеры, гэты звычай быў пашыраны і ў познім сярэдневякоўі, у вёсцы ён захаваўся да пач. 20 ст. Аўтару «Аповесці мінулых гадоў» Полацкая зямля ўяўлялася краінай чараўнікоў; полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (Чарадзей) лічыўся ўвасабленнем мага, здольнага абярнуцца воўкам, спыняць дождж, насылаць чары на сваіх ворагаў. У сярэдневякоўі ў Беларусі былі пашыраны ўяўленні аб магчымасці праз магічнае ўздзеянне нашкодзіць здароўю чалавека і выклікаць яго смерць. Шмат інфармацыі пра гэта захавалася ў акта-



вых кнігах 16—18 ст. магістратаў Магілёва, Віцебска, Полацка і інш. гарадоў. Так, у 1758 жыхарка Магілёва Арына Бацоўка запрасіла да сябе ў дом «чарадзейку», каб яна «зачаравала» войта Івана Янчэўскага. Каб навесці порчу на войта, яны здзяйснялі магічныя маніпуляцыі з васковай фігуркай войта, а каб задуманае здзейснілася абавязкова, Бацоўка паклікала яшчэ і «ведзьмара» Кузьму Чарняка. За гэта абодва «чараўнікі» былі схоплены, закаваны ў кайданы і зняволены ў турму. Паводле Статутаў ВКЛ, калі ў выніку Ч. здаралася якая шкода, справа разглядалася па агульных правілах судаводства. Статут ВКЛ 1588 лічыў Ч. крымінальным злачынствам. «Чараўніка» маглі пакараць смерцю або дубцамі, спагнаннем страты, выгнаннем з месца жыхарства. 7.12.1622 копны суд прысудзіў да смяротнай кары за Ч. жыхара в. Пяцеўшчына (Менскі пав.) Барыса Славіновіча. У ноч на Купалле ён з «незбожным чародейским умыслом» нарваў каласоў жыта на полі Яна Федаровіча і, паклаўшы іх у шчыліну асінавага кала, закапаў на могілках. Федаровіч злавіў яго на месцы здарэння і склікаў капу, якая пакарала «чараўніка». Крымінальная адказнасць за Ч. ў Рэчы Паспалітай адменена соймавай канстытуцыяй 1776.

*Літ.*: Bugaj R. Nauki tajemne w dawnej Polsce — Mistrz Twardowski. Wrocław etc., 1986; Барташэвіч Г.А. Магічнае слова: Вопыт даслед. светапогляднай і маст. асновы замоў. Мн., 1990; Замовы. Мн., 1992; Довнар-Запольский М. Чародейство в Северо-Западном крае в XVII—XVIII вв. // Неман. 1996. № 6.

***Ігар Марзалюк.***

**Чаркаскае паўстанне 1536**, выступленне мяшчан, казакоў і баяр г. Чаркасы ў Кіеўскім ваяв. супраць уціску адміністрацыі старасты В.Тышкевіча і яго папярэдніка памерлага А.*Дашкевіча.* Было выклікана фактычным скасаваннем гар. самакіравання, значным ростам павіннасцей і падаткаў, якія ішлі на барацьбу з татарскай пагрозай. Паўстанцы прагналі з горада ўраднікаў старасты і стварылі сваё самакіраванне. Пад уплывам Ч.п. пачалося *Канеўскае паўстанне 1536.* Для падаўлення паўстанняў з Кіева былі пасланы ўрадавыя войскі. Канеў быў узяты, аднак пад Чаркасамі мяшчане і казакі разбілі пасланыя супраць іх атрад. Асцерагаючыся пашырэння паўстання, урад прызначыў новага старасту і пайшоў на часовае паслабленне падаткаў і павіннасцей. Аднак шмат незадаволеных сямей мяшчан і казакоў перасяліліся ў Канеў, на Запарожжа, у інш. месцы.

*Літ.*: Яковлев А. Бунт черкасцев и каневцев в 1536 году // Україна. Київ, 1907. Т. 1; Черкас Б.В. Остафій Дашкович — черкаський і канівський староста XVI ст. // Український історичний журнал. 2002. № 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Чаркаскі** Якаў Кудзенетавіч [у мусульманстве Урускан-мурза; ?—8(18).7.1666], расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Паходзіў з кабардзінскіх князёў, выехаў у Расію і хрысціўся ў 1624. З 1625 стольнік, з 1645 баярын. У 1641 і 1645 ваявода ў Туле. У 1648 узначальваў урад, у 1649—50 — Стралецкі і Іншаземны прыказы. Актыўна ўдзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і ў вайне са Швецыяй 1656—58. У 1654 прызначаны 1-м ваяводам вял. палка (цэнтр. групоўка рас. арміі, у якой знаходзіўся цар). Летам—восенню 1654 войскі Ч. захапілі гарады Белы, Дарагабуж, Смаленск, Дуброўна, Орша, Копысь, 12.8.1654 разбілі армію Я.Радзівіла пад Шкловам, 24.8.1654 — пад Шапялевічамі. Летам 1655 войскі Ч. пасланы на Вільню, 8.8.1655 яны разбілі армію Радзівіла і В.А.Гасеўскага і занялі сталіцу ВКЛ, 19.8.1655 — Коўна, 8.9.1655 — Гродна. Паходу на Варшаву перашкодзіла ўступленне ў вайну супраць Рэчы Паспалітай Швецыі. Ч. ўдзельнічаў у перагаворах з вярхамі ВКЛ, каб перацягнуць іх на бок цара. У 1656 ён узначаліў армію, якая са Смаленска рушыла на шведскія войскі ў Інфлянтах, захапіў шмат гарадоў, аднак аблога Рыгі скончылася няўдачай. У канцы 1663 прызначаны 1-м ваяводам у Смаленск, стрымліваў наступленне войск Рэчы Паспалітай, у 1664 ваяваў каля Оршы. Летам 1666 войскі Ч. занялі Шклоў і Копысь, намагаліся захапіць Магілёў. У апошнія гады вайны Ч. абвінавачвалі ў бяздзейнасці і патуранні войскам Рэчы Паспалітай.

**Чарнакунства**, памежныя наўгародскія землі ў 14—15 ст., якія сплачвалі даніну (чорную куну) ВКЛ. Першыя звесткі пра Ч. ўтрымліваюцца ў літ.-наўгародскіх дагаворах 25.1.1431 і 1441—42. Складалася з зямель, якія першапачаткова належалі смаленскім князям (межавалі з *Таропецкай воласцю*), а на рубяжы 11—12 ст. былі перададзены кн. Мсціславам Уладзіміравічам Ноўгараду ў якасці дамена для сына Усевалада. У Наўгародскай зямлі заставаліся тэрыторыямі, якія знаходзіліся пад непасрэдным княжацкім кіраваннем. Пераход даходаў з Ч. ад Ноўгарада і яго князёў да літ. уладароў адбыўся, відаць, у 1326, калі быў заключаны мір паміж ВКЛ, Смаленскім княствам, Вял. Ноўгарадам і Лівонскім ордэнам. Выплата чорнай куны з шэрагу наўгародскіх валасцей гарантавала бяспеку паўд. граніцы Вял. Ноўгарада. Да Ч. адносіліся Холмскі пагост і валасці Марэва, Малвяціцы, Сцерж, Кунска, Бярозавец, Лапасціцы, Буйцы і Жабна. Ад уласна Ч. адрозніваліся Вял. Лукі і Ржэва, якія спрадвеку былі наўгародскімі ўладаннямі, але таксама плацілі даніну ВКЛ; акрамя чорнай куны гэта была кароўшчына (ялаўшчына) і цівунская пошліна з Ржэўскай зямлі. Вялікалукская і Ржэўская землі набліжаліся да статуса сумеснага наўгародска-літ. ўладання. Вядома, што ў Ржэўскай зямлі збіраў чорную куну і чыніў суд літ. намеснік, наўгародскім былі землеўладанне і некаторыя даходы. У 1435 з-за нявыплаты даніны наўгародцы зрабілі паход на Ржэўскую зямлю і спустошылі яе да пскоўскай мяжы. Пасля далучэння Ноўгарада да Вял. княства Маскоўскага (1478) некаторы час ВКЛ прад'яўляла прэтэнзіі на чорную куну, ад чаго не адмаўляўся спачатку і Іван III, але выплату спыніў. Памеры тэрыторый, з якіх улады ВКЛ патрабавалі чорную куну, скараціліся да Вял. Лук, Ржэвы і Холма. Апошні атрымаў афіцыйную назву Ч. (пад намеснікам у Ч. разумеўся холмскі намеснік). Былыя валасці Ч. трапілі ў склад новай адм. адзінкі Ноўгарада Дзярэўскай пяціны. У Вял. Луках і Ржэве пад маскоўскай уладай было заснавана асобнае намесніцтва. Прэтэнзіі на Ч. ўлады ВКЛ пакінулі толькі пасля заключэння «вечнага» міру 1494.

*Літ.*: Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998.

***Віктар Цемушаў.***

**Чарнаўчыцкі Троіцкі касцёл**, помнік архітэктуры з элементамі готыкі і


**Чарнаўчыцкі Троіцкі касцёл.**

Рэнесансу. Пабудаваны ў канцы 16—пач. 17 ст. М.К.*Радзівілам* Сіроткам у мяст. Чарнаўчыцы Берасцейскага пав. (цяпер вёска ў Брэсцкім р-не). 1-нефавы мураваны храм зальнага тылу з прамавугольным прэсбітэрыем і паўкруглай апсідай. Да прэсбітэрыя сіметрычна прылягаюць больш нізкія квадратныя ў плане капліца і сакрыстыя з 1-схільнымі дахамі, што стварае паступовае насычэнне аб'ёмаў і надае кампазіцыі мастацкую выразнасць. З паўд. боку да апсіды прылягае круглая ў плане вежа з самастойным шатровым пакрыццём і вітымі ўсходамі ўнутры. Да нефа з паўн. і паўд. бакоў сіметрычна прылягаюць невял. бакавыя капліцы, якія ўтвараюць крылы псеўдатрансепта. Да гал. фасада прыбудаваны бабінец. Асн. аб'ём і апсіда накрыты высокім 2-схільным дахам з трохвугольнымі шчытамі на тарцах. Шчыт на гал. фасадзе аздоблены плоскімі прамавугольнымі і круглымі нішамі, тонкімі карнізамі, вертыкальнымі цягамі. Атынкаваныя масіўныя сцены (таўшчыня 1,3 м) бакавых фасадаў умацаваны контрфорсамі, прарэзаны вузкімі паўцыркульнымі вокнамі і завершаны прафіляванымі карнізамі. Унутры цыліндрычныя скляпенні на распалубках дэкарыраваныя ляпнымі рэбрамі прыгожага дэкаратыўнага малюнка (т.зв. люблінскага тыпу), упрыгожаны плакетамі з манаграмамі «IHS» і выявамі арла. Сцены храма ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне, афармлены пілястрамі. Касцёл мае рысы помнікаў люблінскай архітэктуры канца 16—пач. 17 ст. (адзін неф, доўгі прэсбітэрый з паўкруглай апсідай, бязвежавы фасад, багатая ўнутраная ляпніна). Т.Бернатовіч лічыць, што стваральнікам касцёла мог быць італьянскі архітэктар, які працаваў на Люблiншчыне і быў цесна звязаны з майстэрняй Якуба Баліна. Відаць, у Чарнаўчыцы прыехалі будаўнікі з Белай (Самуэль Міхалоўскі, Андрыс), дзе ў 1603 завершана будаўніцтва касцёла св. Ганны, падобнага да чарнаўчыцкага. У інтэр'еры 3 барочныя драўляныя паліхромныя скульптуры 18 ст. Захоўваецца арнат, аблямаваны слуцкім поясам. На ПнЗ ад касцёла на высокім цокалі стаіць 3-ярусная тынкаваная званіца з шатровым дахам (падобная да званіцы Нясвіжскага касцёла Божага Цела). У 1585 і 1587 Радзівіл Сіротка даў касцёлу (яшчэ драўлянаму?) фундушы. У 1600 пры касцёле пабудаваны мураваны шпіталь (пазней плябанія). Пасля паўстання 1863—64 касцёл перароблены на правасл. царкву, пасля 1-й сусв. вайны адноўлены. Дзейнічае.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993; Bernatowicz T. Miles christianus et peregrinus: Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji Nieświeskiej. Warszawa, 1998.

**Чарнецкі** (Czarniecki) Стафан (1599, в. Чарнца, Сандамірскае ваяв.—16.2.1665), ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Абозны каронны ў 1654—55, кашталян кіеўскі ў 1655—57, ваявода рускі ў 1657—64 і кіеўскі з 1664, гетман польны каронны ў 1665. З маладосці служыў у войску. У 1626—29 удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. Пасля заключэння Альтмарскага перамір'я (1629) да 1633 ваяваў у Германіі на баку імператара ў Трыццацігадовай вайне 1618—48. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. У 1638 ваяваў з укр. казакамі, у 1644 удзельнічаў у бітве з татарамі пад Ахматавам. З 1648 удзельнічаў у войнах з Б.Хмяльніцкім. У бітве пад Жоўтымі Водамі 1648 трапіў палон да татараў, пасля казакоў, вызвалены ў 1649. Удзельнічаў у бітве пад Берасцечкам 1651, у паходах на Брацлаўшчыну 1653 і 1654. У *Паўночную вайну 1655—60* са шведамі камандаваў у 1655 абаронай Кракава, у 1657 ваяваў у Памор'і, у 1658 — у Даніі. У пач. 1660 увёў свае войскі на Падляшша як заслону ад рас. арміі (гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*). Тут злучыўся з войскам вял. гетмана ВКЛ П.Я.Сапегі, разам з ім у чэрв. 1660 пачаў генеральнае наступленне на рас. войскі ў Беларусі. Разам з Сапегам перамог рас. войскі ў *Палонкаўскай бітве 1660*, вызваліў ад аблогі Ляхавіцкі замак. Пасля войскі Ч. беспасяхова спрабавалі ўзяць Барысаў. Зноў злучыўся з войскамі Сапегі, але разам не здолелі вызваліць Магілёў і адышлі на р. Бася, дзе 8.10.1660 каля Чавусаў нанеслі паражэнне Ю.А.Далгарукаму. У канцы 1660 зрабіў рэйд на Чарнігаўшчыну. У *Кушліцкай бітве 1661* разбіў войскі І.А.Хаванскага. У канцы 1663 разам з каралём Янам II Казімірам узначаліў паход на рас. войскі за Дняпро. У 1663—65 ваяваў з укр. казакамі.


С.**Чарнецкі**. Мастак Б.Мацісен. 1659.

*Літ.*: Kersten A. Stefan Czarniecki, 1599—1665. Warszawa, 1963; Spieralski Z. Stefan Czarniecki. Warszawa, 1974.

**Чарняўская** Тамара Іванаўна (н. 2.10. 1934, Масква), беларускі гісторык архітэктуры. Канд. архітэктуры (1967). Скончыла Бел. політэхнічны ін-т (1959). У 1960—92 працавала ў ін-це

мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, адначасова ў 1963—71 выкладчык Бел. політэхнічнага ін-та. Даследуе гіст. планіроўку і забудову Віцебска, Магілёва, Менска, помнікі архітэктуры Беларусі. Аўтар раздзелаў па горадабудаўніцтве 14, 17 і 18 ст. у «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—6, 1987—94), раздзелаў пра помнікі архітэктуры ў серыі кніг «Памяць» (Камянецкі, Мядзельскі, Нясвіжскі і інш. р-ны). Адзін з аўтараў і чл. рэдкалегіі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (1984—88). Дзярж. прэмія Беларусі 1990.

*Тв.*: Архітэктура Магілёва. Мн., 1973; Архітэктура Віцебска. Мн., 1980; Памятники архитектуры Минска XVII—начала XX в. Мн., 1984 (з А.Ю.Пятросавай).

**Чаропка** Вітаўт (Віктар Кузьміч; н. 21.8.1961, Мінск), беларускі гісторык. У 1981—90 працаваў на Мінскім трактарным заводзе. З 1990 рэдактар час. «Хрысціянская думка», з 1993 працаваў у час. «Спадчына», з 1994 у час. «Беларуская мінуўшчына», з 1998 у «Беларускім гістарычным часопісе». Аўтар навукова-папулярных кніг па гісторыі ВКЛ.

*Літ.*: Імя ў летапісе. Мн., 1994 (2 выд. 2003); Гісторыя нашага імя. Мн., 1995; Уладары Вялікага княства. Мн., 1996 (2 выд. 2002); Лёсы ў гісторыі. Мн., 2005.

**Чартарыйскі** Адам Казімір (1.12. 1734, г. Гданьск—19.3.1823), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З роду князёў *Чартарыйскіх*. Атрымаў выдатную адукацыю, вандраваў па Германіі, Францыі, Бельгіі, Італіі, Аўстрыі, Англіі. Выбіраўся паслом на соймы 1756, 1758, 1760, 1762. З 1758 генеральны стараста падольскі. У 1764 выбраны маршалкам канвакацыйнага сойма і «фамілііяй» Чартарыйскіх вылучаны кандыдатам на трон Рэчы Паспалітай, але пад націскам Кацярыны II адмовіўся ад яго на карысць свайго стрыечнага брата С.А.Панятоўскага. Ініцыятар (разам з «фамілііяй») правядзення карэнных рэформаў дзярж. ладу Рэчы Паспалітай. У 1766 яму даручана рэфармаванне войска ВКЛ. У 1767 далучыўся да *Радамскай канфедэрацыі* і ўзначаліў магнацкую апазіцыю каралю. У выніку канфлікту з каралём выехаў за мяжу. З 1768 камендант Варшаўскага кадэцкага корпуса, камандзір палка пешай літоўскай гвардыі, генерал-лейтэнант



А.К.**Чартарыйскі**. Мастак Ю.Пешка.

(1775), камандзір 1-й і 2-й дывізій войска ВКЛ (да 1783). У 1773—76 чл. *Адукацыйнай камісіі*. У 1786 атрымаў ад імператара Іосіфа II тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі для сябе і сваіх нашчадкаў, а для старэйшага ў родзе — тытул герцага Галіцыйскага каралеўства. Выбраны паслом на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*, прыхільнік *Канстытуцыі 3 мая 1791*, зблізіўся з каралём. Адмовіўся ад патрабаванняў Расіі далучыцца да *Таргавіцкай канфедэрацыі* і выехаў у Вену. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) асн. маёнткі Ч. апынуліся ў Аўстрыі, і ён прыняў аўстрыйскае падданства, з 1808 аўстрыйскі фельдмаршал. У 1809 прыняў падданства Варшаўскага княства. Пасля прыходу войск Напалеона ў Варшаву ў 1812 выбраны маршалкам Надзвычайнага сейма і Генеральнай канфедэрацыі. Пазней адышоў ад паліт. дзейнасці. Рэзідэнцыя Ч. у Пулавах была асяродкам грамадска-паліт. і культ. дзейнасці. Мецэнат, апякун л-ры і мастацтва, тэарэтык і крытык л-ры і тэатра, аўтар камедый.

***Аляксандр Ерашэвіч.***

**Чартарыйскія**, Чартарыскія, княжацкі род герба «Пагоня». Паводле генеалагічнай традыцыі вялі сваё паходжанне ад кн. Канстанціна Альгердавіча (?—1390); пры гэтым спасылаліся на пацвярджэнне польскім каралём Уладзіславам III іх сваяцтва з Альгердам граматай ад 14.6.1442. Аднак гісторыкі 19 ст. выказвалі сумненні ў верагоднасці гэтай граматы і схіляліся да версіі пра бел. паходжанне Ч. Прозвішча атрымалі ў 15 ст. ад свайго маёнтка Чартарыйск на р. Стыр на Палессі (Луцкі пав. Валынскага ваяв.). Княжацкі тытул Ч. зацверджаны на Люблінскім сойме 1569, у Аўстрыі ў 1785, у Каралеўстве Польскім у 1819. На Беларусі ў розны час валодалі Лагойскам, Глускам, Карэлічамі, Шкловам і інш. У канцы 16 ст. перайшлі з праваслаўя ў каталіцтва. Родапачынальнік Ч. — уладальнік маёнтка Чартарыйска кн. Васіль (?—пасля 1417), сынамі якога былі Іван (?—каля 1460), Аляксандр (?—пасля 1477) і Міхаіл (?—да 1489). Патомства Аляксандра (лагойская галіна роду) у мужчынскім родзе скончылася ў 16 ст. Ад унукаў Міхаіла (валынская галіна) паходзяць 2 асн. лініі роду Ч.: ад Аляксандра Фёдаравіча (?—1571) — чартарыйская лінія (скончылася ў 1606), ад Івана Фёдаравіча (?—1567) — клеванская лінія. Ад унука Івана Фёдаравіча — Мікалая Юрыя (?—1662) пайшлі 2 новыя галіны роду: старэйшая, клеванская (яе прадстаўнікі ў наш час жывуць у Польшчы і краінах Зах. Еўропы), і малодшая, карэцкая (згасла ў 1810). Асаблівае значэнне ў паліт. жыцці Рэчы Паспалітай Ч. мелі ў 18 ст., калі ўзначальвалі моцную групоўку магнатаў — «фамілію», якая ў 2-й чвэрці—2-й пал. 18 ст. спрабавала правесці рэформы дзярж. і эканам. ладу Рэчы Паспалітай, арыентавалася на Расію, а пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай узначаліла магнацкую апазіцыю. Гал. рэзідэнцыя Ч. была ў г. Пулавы (Люблінскае ваяв.). Найб. вядомыя:

Васіль (?—пасля 1417), родапачынальнік Ч., як лічаць, сын кн. Канстанціна Альгердавіча. У 1393 пры двары Ягайлы, валодаў Лагойскам.

Іван (?—каля 1460), сын Васіля. Адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў змовы і забойства вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча (1440), уваходзіў у раду вял. кн. Свідрыгайлы.

Аляксандр (?—пасля 1477), сын Васіля. Канюшы вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440. Незадаволены антымагнацкай палітыкай Жыгімонта, які абапіраўся на дробнае баярства, разам з братамі Іванам і Міхаілам стаў адным з арганізатараў змовы і забойства вял. князя, быў вымушаны ўцячы ў Маскву. Намеснік вял. князя маскоўскага ў

Пскове (1443—47, 1456— 60) і Ноўгарадзе (1447—56). У 1461 вярнуўся ў ВКЛ і атрымаў ад вял. кн. Казіміра IV Лагойск, Асташын, Камянец. Быў жанаты з Марыяй, дачкой маскоўскага вял. кн. Дзмітрыя Шамякі.

Міхаіл (?—да 1489), сын Васіля. Пасля забойства вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча эмігрыраваў у Венгрыю. У 1444 вярнуўся, у 1445—51 маршалак дворны вял. кн. Свідрыгайлы. Прыхільнік экспансіі Польшчы на Валынь, у 1452 разам з братам Іванам дапамог сілам ВКЛ заняць Луцк, прызначаны намеснікам брацлаўскім. У 1478 абараніў Брацлаўскі замак ад крымскіх татар.

Сямён (?—пасля 1524), сын Аляксандра. Намеснік камянецкі ў 1507—18, стараста чачэрскі і прапойскі, валодаў Лагойскам.

Іван (?—1567), сын Фёдара. Спраўца Кіеўскага ваяв. з 1564, прыхільнік Люблінскай уніі 1569.

Аляксандр (?—1571), сын Фёдара. Ваявода валынскі з 1566. Удзельнічаў у бітвах з крымскімі татарамі, быў прыхільнікам Люблінскай уніі 1569.

Мікалай Юрый (каля 1580—1662), сын Юрыя Іванавіча. Кашталян валынскі ў 1633—55, ваявода падольскі ў 1655—57 і валынскі з 1657.

Міхаіл Юрый (1621—92), сын Мікалая Юрыя. Ваявода брацлаўскі ў 1658—61, валынскі ў 1661—80 і сандамірскі з 1680. Удзельнік войнаў супраць укр. казакоў 1649, 1651, 1653, кампаніі супраць Расіі 1660. Прыхільнік караля Міхала Вішнявецкага. У 1678 удзельнічаў у пасольстве ў Маскву для зацвярджэння *Андросаўскага перамір'я 1667*. Падтрымліваў прааўстрыйскую палітыку караля Яна III Сабескага.

Казімір (1674—31.8.1741), сын Міхаіла Юрыя. Падчашы ВКЛ у 1699—1707 і 1709—12, падскарбі вялікі ВКЛ у 1707—09 (прызначаны Станіславам Ляшчынскім), падканцлер ВКЛ у 1712— 24, кашталян віленскі з 1724. У час бескаралеўя 1696—97 прыхільнік французскага кандыдата на каралеўскі трон прынца Франсуа Луі дэ Канці. У 1706 перайшоў на бок Станіслава Ляшчынскага, потым супрацоўнічаў з Аўгустам II. Пасля яго смерці (1733) зноў прыхільнік кандыдатуры Станіслава Ляшчынскага на трон. Трапіў у палон да войск Аўгуста III, але пагадзіўся з новым каралём. У 1730-я г. арганізаваў магнацкую групоўку Ч. і звязаных з імі іншых родаў («фамілію»), якая разлічвала на дапамогу Расіі, каб умацаваць дзярж. лад Рэчы Паспалітай.

Міхал Фрыдэрык (26.4.1696—13.8.1775), сын Казіміра. Паліт. кіраўнік «фаміліі» ў 1740—70-х г. У 1720-х г. блізкі да Я.Г.Флемінга, першага міністра Аўгуста II, падстолі ВКЛ у 1720— 22, кашталян віленскі ў 1722—24, падканцлер ВКЛ у 1724—52, канцлер ВКЛ з 1752; стараста гарадзенскі, гомельскі, купішскі. Пасля смерці Аўгуста II (1733) прыхільнік Станіслава Ляшчынскага, у 1736 пагадзіўся з Аўгустам III. У 1744—50 спрабаваў правесці рэформы дзярж. ладу Рэчы Паспалітай, абапіраючыся на падтрымку Расіі і Аўстрыі. Пасля смерці Аўгуста III (1763) у 1764 пад аховай рас. войск арганізаваў у Вільні Генеральную канфедэрацыю ВКЛ, скіраваную супраць К.С.*Радзівіла* Пане Каханку, і дамогся яго выгнання з краіны. Аднак Кацярына II, каб не ўзмацняць «фамілію», арганізавала ў 1767 *Радамскую канфедэрацыю* на чале з Радзівілам. Да антырас. *Барскай канфедэрацыі* Міхал Фрыдэрык не далучыўся, але выступаў супраць выкарыстання рас. войск для яе падаўлення. Удзельнічаў у дэлегацыі, якая падпісала трактат аб прызнанні 1-га падзелу Рэчы Паспалітай. У 1763—64 як галава «фаміліі» падтрымліваў кандыдатуру свайго пляменніка Адама Казіміра Ч. на трон Рэчы Паспалітай.



Да арт. **Чартарыйскія**. М.Ф.Чартарыйскі.

Адам Казімір (1.12.1734—19.3.1823), сын Аўгуста Аляксандра, гл. *Чартарыйскі* А.К.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Genealogia. Warszawa. 1959; Borowski E. Genealogie niektórych polskich rodzin utytułowanych. Ser. 2. Buenos Aires; Paryż, 1966; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Dernatowicz M. Portret Familii. Warszawa, 1990.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Чарэйскі Троіцкі манастыр**. Заснаваны ў 1454 братамі смаленскім епіскапам *Місаілам* і Міхаілам Пструхам. Размяшчаўся на Пн ад мяст. Чарэя над воз. Галаўля (цяпер Чарэйскае). У канцы 16 ст. канцлер ВКЛ Л.*Сапега* аднавіў манастыр на новым месцы, даў яму вёскі Вобчына-Манастыр, Будзілава, Плескачы, Рыдомля і Клубінічы. У 1599 ён пабудаваў мураваную Троіцкую царкву (ад яе белых сцен манастыр пазней атрымаў назву Белацаркоўскі), у склепах якой пахаваны бацька Сапегі. У царкве была копія вядомага наўгародскага абраза «Маці Божая Знаменне», перададзеная (ці вернутая) у 1640 з Ружан сынам канцлера Казімірам Сапегаю. У 1834 манастыр скасаваны, царква стала прыходскай. Да Кастр. рэвалюцыі 1917 у Магілёўскім царкоўна-археалагічным музеі захоўваўся сярэбраны стацыянальны крыж 1596, падараваны ў Чарэю Л.Сапегам. Царква захавалася ў напаўразбураным стане.

*Літ.*: Раманаў Р. Чарэйскія святыні // Мастацтва. 2000. № 6.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Чатырохгадовы сойм 1788—92**, Вялікі сойм, заканадаўчы орган Рэчы Паспалітай, што зрабіў спробу рэфармаваць грамадска-палітычны лад дзяржавы на глебе асветніцкіх ідэй. Рыхтаваўся ва ўмовах скасавання саюзнага дагавора 1764 з Расіяй і з надзеяй прагрэсіўных колаў на карэнную змену існуючага ладу без рас. апекі. Адкрыўся ў Варшаве 6.10.1788 у прысутнасці каля 150 паслоў (дэпутатаў). Маршалкі — рэферэндар каронны С.Малахоўскі і генерал артылерыі ВКЛ К.Н.Сапега. Абвясціў сябе *канфедэра-*

*цыяй*, каб рашэнні маглі прымацца большасцю галасоў. Адразу зарыентаваўся на дапамогу Прусіі, 29.3.1790 заключыў з ёю абарончы саюз, які гарантаваў тэрытарыяльную цэласнасць і ўзаемадапамогу бакоў. Гэта спарадзіла спадзяванні ў Рэчы Паспалітай на ўласныя сілы ў абставінах занятасці Расіі войнамі з Турцыяй і Швецыяй. Сойм без абмеркавання магчымасцей краіны 20.10.1788 пастанавіў павялічыць войска да 100 тыс. чал. і падпарадкаваў яго наваствoранай *Вайсковай камісіі абодвух народаў*. 19.1.1789 ліквідаваў *Пастаянную Раду* як сімвал рас. пратэктарату, 23.12.1789 стварыў *Стражу Правоў* і падпарадкаваў сабе кантроль над знешнімі зносінамі. На ўтрыманне войска 1.7.1789 увёў добраахвотныя ахвяраванні: 10% з даходаў шляхты, 20% — духавенства, 50% — трымальнікаў староств. Утойванні даходаў прымусілі скараціць войска да 87 тыс. чал., увесці 6-гадовую службу рэкрутаў з правам замены яе на грошы (4.12.1789), правесці абавязковую люстрацыю землеўладання (6.4.1789). Суцэльная рэвізія (генеральнае межаванне) землеўладання ВКЛ планавалася на 1792—97.

7.9.1789 сойм стварыў канстытуцыйную камісію пад кіраўніцтвам камянецкага біскупа А.Красінскага. 17.12.1789 камісія прапанавала замяніць *кардынальныя правы* нормамі аб суверэнітэце і непадзельнасці тэрыторыі дзяржавы, пазбавіць немаёмную шляхту выбарчых правоў, забараніць права *ліберум вета*, канфедэрацыі, дэпутацкія наказы (інструкцыі). 24.11.1789 268 прадстаўнікоў ад 141 горада патрабавалі грамадзянскага раўнапраўя мяшчанства са шляхтай. Да часу прыняцця канстытуцыі сойм забраў усю паўнату ўлады, дзеля чаго 17.11.1789 стварыў у ваяводствах і паветах *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя*, а 14.6.1790 пастанавіў прадоўжыць свае сесіі да склікання чарговых соймікаў. Разам з шырокімі сац. пераўтварэннямі канстытуцыйная камісія прапанавала ўвесці спадчыннасць каралеўскага трона, што выклікала барацьбу партый адносна шляху прыняцця такога рашэння (соймам або агульнашляхецкім рэферэндумам). Для галасавання на 16.11.1790 былі прызначаны пазачарговыя соймікі з адначасовым выбарам на іх дадатковых паслоў на сойм. Соймікі выказаліся за непарушнасць існуючага саслоўнага ладу, таму прыхільнікі кардынальных змен вырашылі падрыхтаваць канстытуцыю «тайна, каб увесці яе рэвалюцыйным спосабам». Для гэтага быў створаны Клуб сяброў канстытуцыі.


Да арт. **Чатырохгадовы сойм 1788—92**. Маршалак сойма С.Малахоўскі.

16.12.1790 сойм прадоўжыў працу ў складзе каля 500 старых і новаабраных паслоў, якія пад прысягай абавязаліся не браць хабару і не дзейнічаць на карысць замежных дзяржаў. 24.3.1791 прынята «Устава аб сойміках», дзе акрэслены іх тэрміны, месца, працэдура правядзення. Выбарчыя правы дадзены землеўладальнікам і тым, хто плаціў 100 злотых падатку з карыстання чужой маёмасці. Да ўдзелу ў сойміках не дапускаліся *зямяне, панцырныя баяры, путныя баяры, татары*, асобы да 18 гадоў, тыя, хто не адбыў 2-гадовай ваеннай або цывільнай службы, асобы без шляхецкіх прэрагатываў. Цэнзавая шляхта (з правам удзелу ў выбарах) запісвалася ў зямянскія кнігі. ВКЛ падзелена на 34 паветы, створаны Завілейскі, Запінскі, Мерацкі, Пільтэнскі, Случарэцкі, Эйшышкскі паветы. 18.4.1791 прыняты законы аб гарадах пад дзярж. юрысдыкцыяй (у іх лік уваходзілі Берасце, Вільня, Гародня, Менск, Навагародак, Пінск). Гараджанам-хрысціянам прадастаўлены дарадчы голас на сойме, права выбару органаў самакіравання, шляхецкая годнасць на дзярж., ваеннай і царк. службе. У інш. гарадах прадугледжвалася на працягу 2 гадоў урэгуляваць спрэчкі з землеўласнікамі, што справакавала жыхароў мястэчак на барацьбу за вызваленне з-пад прыватнай залежнасці. У прысутнасці 157 паслоў сойм прыняў *Канстытуцыю 3 мая 1791*, якой абавязаў прысягнуць войска і ўсіх мясц. ураднікаў, абвясціўшы кожнага непаслушэнца ворагам айчыны і бунтаўшчыком.

У чэрв. 1791 сойм пачаў кадыфікацыю цывільнага і крымінальнага права на аснове новай канстытуцыі (т.зв. *Кодэкс Панятоўскага*). Аднак дэлегацыя ВКЛ 29.6.1791 дамаглася кадыфікацыі права асобна для Кароны Польскай і ВКЛ (для ВКЛ — мадыфікацыі Статута 1588), роўнага прадстаўніцтва абедзвюх частак дзяржавы ў цэнтр. органах улады (*Адукацыйнай камісіі*, наваствораных Вайсковай камісіі абодвух народаў, *Скарбовай камісіі абодвух народаў*, *Камісіі паліцыі абодвух народаў*) і захавання федэратыўнага дуалізму Рэчы Паспалітай (закон *«Узаемнае заручэнне абодвух народаў»* ад 20.10.1791). Замест прыняцця праекта агульнага вызвалення сялян сойм 19.12.1791 пастанавіў распрадаць дзярж. староствы па частках або пакінуць іх ранейшым пасэсарам на розныя тэрміны трымання за выкуп з папярэднім акрэсленнем сял. павіннасцей і абавязкаў бакоў. Гэта спарадзіла барацьбу дзярж. сялян супраць запрыгоньвання, а кароль 2.8.1791 загадаў падаўляць хваляванні ўзброенай сілай.


Да арт. **Чатырохгадовы сойм 1788—92**. Медаль, выбіты ў гонар пастановы сойма пра павелічэнне войска. Медальер Д.Лоас. 1789.

11.7.1789 сойм спрабаваў злучыць каталіцкую і уніяцкую цэрквы ў адну, канфіскаваў маёмасць Кракаўскага архібіскупства, перавёў каталіцка-уніяцкі епіскапат на дзярж. ўтрыманне, увёў уніяцкага мітрапаліта ў Сенат (25.7.1790). 15.3.1790 абвінаваціў праваслаўных у непатрыятызме, зняво-

ліў пераяслаўскага і барыспальскага епіскапа (са знаходжаннем у Слуцку) *Віктара* Садкоўскага і намагаўся стварыць незалежную ад Масквы правасл. іерархію са сваім Сінодам, для чаго склікаў *Пінскую кангрэгацыю 1791*.

3.1.1792 сойм прыняў закон аб *зямянскіх судах* з выбарам іх членаў, дэпутатаў, камісараў і ўраднікаў на 4 гады мясц. соймікамі. Першыя выбары разам з новай прысягай канстытуцыі адбыліся 24.2.1792. Рэзкасць, палавінчатасць і павярхоўны характар рэформ спарадзілі грамадскі раскол, што скарысталі апазіцыя і Расія, якія стварылі *Таргавіцкую канфедэрацыю*. Прусія адраклася ад саюзніцкай дапамогі Рэчы Паспалітай. У абставінах знешнепаліт. ізаляцыі і інтэрвенцыі Расіі (гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1792*) сойм увёў у краіне ваеннае становішча, стварыў соймавы суд над праціўнікамі канстытуцыйнага ладу, забараніў канфедэрацыі і права магнатаў мець больш за 40 чал. уласнага войска. 29.5.1792 ён прыпыніў сваю дзейнасць да перамогі, але з-за паражэння ў вайне больш не сабраўся.

*Літ.*: Smoleński W. Ostatni rok Sejmu Wielkiego. Kraków, 1896; Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. T. l—6. Wrocław, 1955—69: Ratajczyk L. Wojsko i obronność Rzeczypospolitej, 1788—1792. Warszawa, 1975; Kalinka W. Sejm czteroletni. T. 1—2. 4 wyd. Warszawa, 1991; Skowronek J. Wielka chwila narodowych dziejów. Warszawa. 1991; Zielińska Z. «O sukcesyi tronu w Polszcze», 1787—1790. Warszawa, 1991.

***Яўген Анішчанка.***

**Чаховіц** (Czechowic) Марцін (ліст. 1532, Збоншынь, Польшча—ліст. 1613), польскі пратэстанцкі тэолаг і рэлігійны пісьменнік. Паходзіў з сям'і рамесніка. Вучыўся ў каталіцкай семінарыі ў Познані, потым у Лейпцыгскім ун-це (каля 1554). Стаў ксяндзом у Курніку, пасля 1555 з прычыны сваіх сімпатый да пратэстантызму мусіў пакінуць парафію. Каля 1558 запрошаны М.*Радзівілам* Чорным у ВКЛ на пасаду настаўніка школы пры кальвінскім зборы ў Вільні. У 1561 накіраваны Радзівілам да Кальвіна па пытанні пагаднення з антытрынітарнымі ідэямі Р.Бляндраты. У Жэневе сустракаўся з Кальвінам, вывучаў кальвініцкую тэалогію ў Г.Булінгера. Па дарозе дадому ў Маравіі пазнаёміўся з анабаптысцкімі поглядамі. Пасля вяртання заняў пасаду казнадзея (прапаведніка) пры Віленскім зборы. У 1563 пачаў прапагандаваць анабаптысцкія ідэі, спалучыючы іх з антытрынітарнымі, што выклікала ў 1564—65 дыскусію ў Віленскім зборы і дыспуты з яго міністрам М.Вендргоўскім. Пасля смерці Радзівіла Ч. выехаў у Куявію (на Ніжняй Вісле). Жыў у маёнтку Я.Немаеўскага, стварыў там антытрынітарную грамаду ўласнага кірунку. Пад уплывам ідэй Ч. група мясц. шляхціцаў разам з Немаеўскім прадала сваю маёмасць, а грошы раздала бедным. У 1566 у Познані Ч. дыспутаваў з лютэранамі. У 1570—98 міністр антытрынітарнага збора ў Любліне, адкуль выязджаў на сіноды (у Лоск у 1578 дыскуціраваў з С.*Будным* і В.*Цяпінскім*; быў у Любчы ў 1582, калі разглядалася справа Буднага і інш.). Вёў дыскусіі з каталікамі, Ф.*Соцыным* (нават спрачаўся з ім у 1603 на сінодзе ў Ракаве) і адэптамі яго поглядаў, аднак з прычыны перамогі сацыніянства сярод сваіх паплечнікаў мусіў пакінуць пасаду міністра. Памёр у беднасці і забыцці. Пераклаў на польскую мову Новы запавет (Кракаў, 1577, рэдагаванае выданне — Ракаў, 1594), якое ў 1581 перакладзена на Валыні на старабел. мову В.Негалеўскім. Аўтар тэалагічных трактаў і памфлетаў на польскай і лацінскай мовах (у т.л. «Апалогія да Астафія Валовіча», 1570). Вядомасць яму прынеслі «Хрысціянскія размовы» (Кракаў, 1575). Твор уразіў сучаснікаў сваімі сац. ідэямі: адмова ад маёмасці і дзярж. пасад, няўдзел у войнах і бойках, пацыфізм, скасаванне прыгону сялян, роўнасць усіх станаў. Ч. адхіляў догмат Св. Тройцы, хрышчэнне дзяцей, Хрыста лічыў не Богам, а бязгрэшным чалавекам, народжаным ад Св. Духа і пакліканым Богам у якасці збавіцеля, надзеленым дарам цудаў і затым уваскрэшаным Богам.

*Літ.*: Szczucki L. Marcin Czechowic (1532—1613): Studium z dziejów antytrynitaryzmu polskiego XVI wieku. Warszawa, 1964; Misiurek J. Chrystologiczna doktryna Marcina Czechowica (1532—1613) // Roczniki Teologiczno-Kanoniczne. 1977. T. 24, z. 2.

***Ігар Клімаў.***

**Чаховіч** (Czechowicz) Шыман (Сымон; ахрышчаны 22.7.1689, Кракаў—21.7.1775), мастак. Вучыўся маляваць у Рыме. Пісаў партрэты, абразы, займаўся манументальным жывапісам. Выкарыстоўваў іканаграфічныя кампазіцыі Рафаэля, фламандскіх мастакоў (у т.л. П.П.Рубенса, А. ван Дэйка). Працаваў у Польшчы, Літве, на Украіне і Беларусі. Каля 1770 выканаў 44 карціны для Полацкага езуіцкага калегіума. Магчыма, удзельнічаў у стварэнні размалёвак Нясвіжскага калегіума касцёла Божага Цела.

*Літ.*: Orańska J. Szymon Czechowicz, 1689—1775. Poznań, 1948.

***Вольга Бажэнава.***

**Чацвярцінскія**, Святаполк-Чацвярцінскія, княжацкі род уласнага герба. Прозвішча ад г. Чацвяртня ў Луцкім пав., з 17 ст. ўжывалі



Ш.**Чаховіч**. Пакуты св. Яна Непамука. Фрагмент.

прыдомак Святаполк. Паходжанне вядуць ад Рурыкавічаў. Родапачынальнікам лічыцца ўнук Яраслава Мудрага вял. кіеўскі князь Святаполк Ізяславіч [1093—1113], унук якога Юрый Яраславіч быў князем тураўскім. Дакладная сувязь Ч. з нашчадкамі Юрыя, якія валодалі тураўскімі ўдзеламі, не прасочваецца. Першы вядомы прадстаўнік роду Ч. у ВКЛ — Аляксандр, які разам з інш. князямі ў 1388 паручыўся Ягайлу за Алехну Дзмітрыевіча. Аляксандр меў сына Івана (упамінаецца ў 1432—51) і ўнука Аляксандра (упамінаецца ў 1472—95). Яны і іх нашчадкі мелі маёнткі на Валыні. Родавае гняздо Ч. — Чацвяртня (Старая Чацвяртня); валодалі таксама Баровічамі (Новая Чацвяртня), Сакалем (прадстаўнікі гэтай лініі роду зваліся князямі Сакальскімі), Хлапоцінам, Рагачоўкай, Перамышлем і інш. Вызнавалі праваслаўе, з канца 17 ст. пераходзілі ў каталіцтва. У 1843—86 княжацкі тытул Ч. зацверджаны ў Рас. імперыі. Найб. вядомыя:

Юрый Іванавіч (?—1502), сын Івана Аляксандравіча. Намеснік ўладзімірскі ў 1502.

Фёдар Іванавіч (?—пасля 1507), сын Івана Аляксандравіча. Намеснік брацлаўскі і звянігарадскі ў 1494—98, пасол да валашскага ваяводы ў 1494.

Якаў Андрэевіч (?—да 1616), сын Андрэя Фёдаравіча. Лясніча пінскі, пасол у Маскву ў 1580 і 1586.

Мікалай (?—1659), сын Стафана, падкаморыя брацлаўскага. Пасол на соймы 1632, 1639, 1648, дэпутат Кароннага трыбунала ў 1649, кашталян менскі з 1649. Актыўны абаронца праваслаўя. Адхіліў прапанову Б.Хмяльніцкага далучыцца да казацкага паўстання, як каралеўскі ротмістр прыняў удзел у бітвах з казакамі пад Зборавам (1649) і Берасцечкам (1651).

Сільвестр (у свеце Стафан; ?—1727), сын Вацлава, старасты жычынскага і данічаўскага. У маладосці прыняў манаства і стаў ігуменам, пасля архімандрытам у Старой Чацвяртні. З 1704 епіскап магілёўскі і беларускі (пасвячоны ў 1707 у Кіеве, зацверджаны каралём у 1720). Вёў барацьбу з Кіеўскай мітраполіяй за правы юрысдыкцыі над Слуцкам і паўд. Беларуссю, што суправаджалася гвалтоўнымі дзеяннямі.

Гедэон [?—6(16).4.1690], сын Захара, старасты раціборскага, гл. *Гедэон.*

***Валерый Пазднякоў.***




Герб і радаводнае дрэва **Чацвярцінскіх**. Гравюра з кнігі А.Кальнафойскага «Тэратургіма». Кіеў. 1638.



Т.**Чацкі**. Гравюра. 1816.

**Чацкі** (Czacki) Тадэвуш (28.8.1765, в. Порыцк на Валыні—8.2.1813), гісторык, гаспадарчы і культурны дзеяч. Атрымаў дасканалую дамашнюю адукацыю. З 1781 практыкант задворнага асэсарскага суда ў Варшаве. Зблізіўся з гісторыкам А.*Нарушэвічам.* Па даручэнні караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ўпарадкаваў частку прыватнага каралеўскага архіва і Каронная метрыкі. У 1786—92 чл. Каронная скарбовай камісіі. Праводзіў даследаванні гасп. стану краіны. Ініцыятар складання гідраграфічнай карты Польшчы і ВКЛ. Прапаноўваў шматлікія праекты гасп. развіцця краіны, рамяства, гарадоў, замежнага гандлю, скасавання ўсіх абмежаванняў для яўрэяў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) асеў у Кракаве, дзе праводзіў гіст. даследаванні. Сабраў каштоўныя бібліятэчныя і архіўныя зборы. У 1800 адзін з заснавальнікаў Таварыства аматараў навук у Варшаве. З 1805 візітатар школ Валынскай, Падольскай і Кіеўскай губ. Разам з Г.*Калантаем* заснаваў Крэменецкі ліцэй. Абраны ганаровым чл. Віленскага ун-та. Супрацоўнічаў у газетах «Nowy Pamiętnik Warszawski», «Dziennik Wileński». У 1807 і 1808 арыштаваны па падазрэннях у антыўрадавай дзейнасці. Як гісторык належаў да «школы Нарушэвіча», прадстаўляў манархічную плынь у гіст. навуцы эпохі Асветніцтва. Для мяркуемай манаграфіі пра панаванне Ягелонаў зрабіў крыніцазнаўчае дас-

ледаванне «Карціна панавання Жыгімонта Аўгуста» (1835). Твор «Аб літоўскіх і польскіх законах, аб іх духу, крыніцах, сувязі і аб рэчах, змешчаных у першым статуце для Літвы, выдадзеным у 1529 г.» (т. 1—2, 1800—01) — першая ў польскай гістарыяграфіі спроба гіст. інтэрпрэтацыі права. Першы пачаў даследаваць Статут ВКЛ 1529 (адкрыў і вывучаў Пулаўскі спіс). Крытыкаваў сцверджанні, быццам права ВКЛ грунтуецца на рымскім праве, гал. крыніцу Статутаў ВКЛ бачыў у звычаях паўн. народаў і германцаў. Апрацаваў палеаграфічныя табліцы, нумізматычны каталог. Аўтар шматлікіх прамоў і артыкулаў па эканоміцы, гісторыі і праве, у т.л. «Аб дзесяцінах у свеце, а падрабязней у Польшчы і Літве» (1801), «Аб яўрэях» (1807), «Аб камісіі і адукацыі ў Літве» (1807), «Аб манетнай справе ў Польшчы і Літве» (нап. 1810). Быў ініцыятарам збірання нар. песень і паданняў, у якіх бачыў крыніцу для вывучэння дахрысціянскай Польшчы і Літвы.

*Тв.*: Dzieła. T. 1—3. Poznań, 1843—45.

*Літ.*: Chmielowski P. Tadeusz Czacki: Jego życie i działalność wychowawcza: Zarys biograficzny. Petersburg, 1898; Grabski A.F. Oświeceniowy antenat pozytywistów — Tadeusz Czacki jako historyk // Grabski A.F. Orientacje polskiej myśli historycznej. Warszawa, 1972; Królikowska M. Szkoła naruszewiczowska... Warszawa, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**Чачэрск** (цяпер горад, цэнтр Чачэрскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Рэчыцкім пав., пры ўпадзенні ў р. Сож р. Чачора. Упершыню ўпамінаецца пад 1159. У 12—13 ст. уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З сярэдзіны 14 ст. у ВКЛ, цэнтр воласці, з 1509 мястэчка Віленскага ваяв. З 1501 належаў Алене Іванаўне, жонцы вял. кн. Аляксандра. У 14 ст. на месцы дзядзінца летапіснага горада пабудаваны *Чачэрскі замак*. З 1510 цэнтр стараства, меў правы гар. самакіравання. З 1566 у Рэчыцкім пав. Менскага ваяв. З 1629 меў прывілей на штотыднёвыя таргі і на 2 двухтыднёвыя кірмашы на год. У *антыфеадальную вайну 1648—51* у наваколлі Ч. адбыліся сял. паўстанні. У 1654 горад займалі казацкія войскі І.Н.*Залатарэнкі*. Да 1659 тэрыторыя Ч. была ў складзе гетманскіх казацкіх уладанняў на Беларусі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Чачэрскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Чачэрск*. Пабудаваны на дзядзінцы летапіснага горада 10—13 ст. Займаў мыс карэннага берага р. Чачора (прыток Сажа). Пляцоўка замка мела амаль трохвугольную форму (плошча каля 0,5 га), была нахілена на Пн і ўзвышалася на 14 м над поймай Чачоры. Ад горада замак аддзяляў шырокі (20—25 м) і глыбокі (да 7 м) роў, па краі быў абведзены земляным валам з драўлянымі сценамі і вежамі. З Пн і У па знешнім і ўнутраным схілах вала ішлі 2 траншэі, запоўненыя цвёрдай глінай, што прадухіляла распаўзанне насыпу вала. У сярэдзіне 16 ст. цераз абарончы роў перакінуты пад'ёмны мост, які падводзіў да ўязной замкавай брамы. Драўляныя рубленыя сцены замка былі абмазаны глінай. У грамаце Жыгімонта ІІ Аўгуста ад 12.2.1562 баярам, шляхце і мяшчанам Чачэрска, напісанай у час Інфлянцкай вайны 1558—83, звернута ўвага чачэрцаў на стан іх замка, які патрабаваў тэрміновага «поправеня». Згадваецца «башта у вострозе пры млыне, которая... замку тамошнему велми потребна», але якую, паводле звестак дзяржаўцы Юрыя Зяновіча, мяшчане «робити не хотели и в недбалство себе покладали». Было загадана, каб яны «оную башту у вострозе водле потребы заробили и забудовали». Агульная колькасць замкавых вежаў у той час невядомая, аднак у 17 ст. іх было 8. У 16 ст. парубежны Ч.з. неаднаразова асаджалі крымскія татары і рас. войскі. У 1506, 1523 і 1562 пуціўльскі намеснік кн. Рыгор Мяшчэрскі «с товарыщи... воевали Могилевские и Чичерские и Пропойские места». У 1633 рас. ваявода І.Балаш «с детьми боярскими и с казаками ходили под литовский город Чичерск». Відаць, яны не ўзялі яго і адступілі да Старадуба. У 1648 войска казацкіх палкоўнікаў Гаркушы і Падабайлы, якое прыйшло з-пад Быхава, мела намер захапіць Ч.з., аднак было разбіта тут войскам Я.Паца. У *антыфеадальную вайну 1648—51* Чачэрскам авалодалі ў летнюю кампанію 1648 паўстаўшыя сяляне, якія добра ўмацавалі яго для абароны ад карных войск. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад і замак неаднаразова асаджалі рас. войскі, у выніку чаго замкавыя ўмацаванні моцна пацярпелі і аднаўлены толькі пасля вайны. Крыніцы за 1682 паведамляюць пра наяўнасць на Замкавай гары 8 вежаў, у т.л. вежы-брамы і хваёвага двайнога астрога. Гэтыя пабудовы абкружаў абарончы роў. Інвентар Ч.з. за 1726 сведчыць, што тут мелася 2-павярховая ўязная брама, у якой знаходзіліся стары арсенал і некалькі гаспадарчых пабудоў. У інвентары Чачэрска 1763 апісана замкавая ўязная вежа-брама «з дрэва брусаванага ў тры паверхі з купалам, накрытым драніцамі». Цераз абарончы роў быў перакінуты драўляны мост на зрубах з парэнчамі. Уваход у браму запіралі дубовыя вароты, абабітыя жалезнымі шынамі. Тут была і невял. ўваходная фортка. Ніжні паверх вежы-брамы займалі 2 цёмныя турмы і глыбокая яма са зрубам, куды саджалі злодзеяў. З двара на 2-і паверх вялі ўсходы з тарціц. З размешчанай на 2-м паверсе залы траплялі на 3-і паверх, дзе было прасторнае памяшканне і выхад на баявую ашаляваную галерэю. Уверсе, над самым купалам, размяшчаліся байніцы і баявы памост для стралкоў. Замкавыя гасп. пабудовы (лядоўня, піўніца, 2-павярховы лямус, стайня і інш.) былі абнесены палісадам «з дыляў дубовых, месцамі ў 3 рады, а месцамі ў 2 рады пастаўленых», у якіх былі прароблены байніцы. Каля іх для стралкоў меўся баявы памост, закрыты з боку двара дошкамі, а зверху — дранкай. Гэта была фактычна баявая галерэя, паколькі ўнутр яе вялі спец. дзверы. Паводле попісу Чачэрска за 1765, горад, як і раней, меў уласную лінію ўмацаванняў. Па-ранейшаму існаваў замак з яго брамай Замкавай. Да нашага часу збярогся толькі замкавы роў, які з ПдУ дугой агінае замчышча.

**чашнік**, урад (пасада) у ВКЛ. Павінен быў наліваць вял. князю ВКЛ напоі ў посуд, што падносіў да гаспадара *падчашы*. Пасада вядома з 1409. Пры двары вял. кн. Аляксандра [1492—1506] было некалькі Ч. З цягам часу пасада ператварылася ў намінальную. У паветах існавалі павятовыя Ч. З 17 ст. ўсталявалася польская форма назвы пасады — чэснік.

**Чашнікі** (цяпер горад, цэнтр Чашніцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Полацкім ваяв., на р. Ула. Вядомы з 16 ст., належалі князям Лукомскім, з канца 16 ст. Кішкам, Сапегам, Патоцкім, Валадковічам. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* каля Ч. войскі ВКЛ разбілі маскоўскія войскі ў *бітве на Уле 1564* і ў 1567. Паводле загаду цара Івана IV Грознага на правым беразе Улы пабудаваны драўляны замак (у 1708 спалены). У 17 ст. Ч. — гандлёвае мястэчка, у 1633 тут 109 дамоў і 16 крам. У 1664 харужы А.Слушка заснаваў дамініканскі кляштар, на месцы якога ў 1786 пабудаваны мураваны касцёл у стылі позняга барока. У 18 ст. ў Ч. існавалі прыстань, больш за 40 складоў, майстэрні па вырабе гандлёвых суднаў — стругаў. У 2-й пал. 18 ст. Ч. мелі гандлёвыя прывілеі, у 1791—93 былі цэнтрам Полацкага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Чашніцкая бітва 1564**, гл. *Бітва на Уле 1564.*

**чвэрць**, мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і плошчы ў ВКЛ. 1) Мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, гал. чынам збожжа, круп, мукі; літаральна 1/4 частка. У залежнасці ад велічыні бочкі, гарца, мясцовасці, мэт (сяўба, гандаль, аптовая або дробная нарыхтоўка і г.д.) у Ч. уваходзіла 18, 36, 64, 72, 80 гарцаў (ад 101,63 да 203,26 л). У 1792—93 пры рэквізіцыях з боку рас. арміі Ч. прыраўноўвалася да 1/2 віленскай бочкі (7 пудоў 10 фунтаў мукі, што складала 118,754 кг), а таксама да 80 літоўскіх або 64 рускіх гарцаў (209,79 л). У пач. 19 ст. Ч. вызначалася як 1/2 віленскай бочкі, складалася з 2 асьмін па 36 гарцаў (72 шынковых гарцаў) і адпавядала 70,638 кг жыта або 104,95 л. 2) Мера плошчы. У дзярж. уладаннях вядомы Ч. у 4 службы і ў 1 валоку.

*Літ.*: Зеленский И. Материалы для географии и статистики России...: Минская губерния. Ч. 1. СПб., 1864; Сементовский А.М. О мерах и весе, употребляемых в Витебской губернии. Витебск, 1874; Каменцева Е.И.,Устюгов Н.В. Русская метрология. 2 изд. М., 1975.

*Яўген Анішчанка.*

**чопавае**, падатак з вырабу і продажу моцных напіткаў у Польшчы і ВКЛ.

**Чашнікі**. Малюнак Н.Орды.



У Польшчы вядома з 13 ст. як дзярж. падатак з вырабу і рэалізацыі піва, мёду, гарэлкі, віна ў корчмах, броварах, шынках, млынах, лазнях усіх тыпаў уладанняў. У ВКЛ у 15—16 ст. называлася *капшчына*. У выніку прадастаўлення прыватным землеўладальнікам права вольнай *прапінацыі* (1576) Ч. пачало збірацца толькі з дзярж. уладанняў і іх трымальнікаў. Традыцыйна Ч. ішло на ўтрыманне войска. У 17—18 ст. прыносіла 8—9% даходаў скарбу ВКЛ. Ч. збіралі спец. *паборцы* (экзактары, правізары, камісары). У гарадах іх прызначалі з бурмістраў і радцаў, у вёсках — з войтаў, лаўнікаў, арандатараў па вызначэнні дзяржаўцаў, ваявод і судовых старастаў. Падаткам не абкладаўся выраб напіткаў на хатнія патрэбы. Сойм 1766 увёў для ВКЛ Ч. ў памеры 10% ад кошту напіткаў у кожнай карчме і шынку пад прысягай вытворцаў і ўласнікаў. З 1.3.1768 гэты падатак быў павінен замяніць *падымнае*, для чаго назначалася генеральная люстрацыя вытворчых і гандлёвых пунктаў пад наглядам скарбовых экзактараў і з выкарыстаннем вайсковай дапамогі. Сойм 1775 пашырыў збіранне Ч. з усіх відаў він, у т.л. замежных, і ўвёў адзіную стаўку абкладання напіткаў пры захаванні за шляхтай свабоды рознічнага гандлю імі. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі ў канцы 18 ст. Ч. заменена на вінакурную пошліну, зыходзячы з колькасці рэвізскіх душ у землеўладаннях.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев. 1901; Pawiński A. Skarbowość w Polsce i jej dzieje za Stefana Batorego. Warszawa, 1881; Korzon T. Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława Augusta (1764—1794). T. 3—4. 2 wyd. Kraków; Warszawa, 1897; Filipczak-Kocur A. Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587—1648. Wrocław, 1994.

*Яўген Анішчанка.*

**Чорная Русь**, традыцыйная назва паўночна-заходняй часткі Беларусі, якая на пачатковым этапе фарміравання ВКЛ (сярэдзіна 13 ст.) увайшла ў склад гэтай дзяржавы. Паводле гіст.-геаграфічных уяўленняў 18—20 ст., гал. цэнтрамі Ч.Р. былі Навагародак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім. Аднак аўтэнтычныя гіст. крыніцы не пацвярджаюць існавання на гэтай тэрыторыі вобласці з такой назвай. Назва «Ч.Р.», відаць, узнікла ў сярэдневяковай зах.-еўрапейскай л-ры перыяду позняй схаластыкі і пачаткова не мела трывалай лакалізацыі. У абсалютнай большасці выпадкаў 14—17 ст. назва ўжывалася зах. еўрапейцамі ў дачыненні да розных тэрыторый на У і Пд ад сучаснай Беларусі. Адна з першых крыніц, дзе ўпамінаюцца «чорныя русіны», — нямецкамоўная хроніка Венгрыі Генрыха Мюгельна (каля 1360), у якой паведамляецца пра перасяленне стараж. венграў у Панонію праз тэрыторыю сучаснай Украіны. Тэрмін «Ч.Р.», відаць, быў утвораны на ўзор і ў процівагу *Белай Русі* не раней за 14 ст. Англійскі дыпламат Дж.Флетчар у трактаце «Пра Расійскую дзяржаву» (Лондан, 1591) адзначаў: «Расія калісьці называлася Сарматыяй... Гэтая зямля падзялялася на дзве галоўныя часткі: Белую і Чорную. Белая Сарматыя ўключала ў сябе ўсю прастору, што ляжыць на поўнач і з боку Лівоніі, як вобласці, якія цяпер называюць Дзвінскай, Важскай, Ус-



цюжскай, Валагодскай, Каргопальскай, Наўгародскай і г.д., сталіцай, ці галоўным горадам якіх быў Ноўгарад Вялікі. Чорнай Сарматыяй называлася ўся краіна, што ляжыць на поўдзень, ля мора Эўксінскага, ці Чорнага, як княствы: Уладзімірскае, Маскоўскае, Разанскае і інш.». Вельмі падобны на яго падзел Русі галандскага гісторыка і палітолага Георга Хорна ў працы «Свет дзяржаў» (1668): «[Русь] падзялялася на Белую і Чорную. Двума галоўнымі яе княствамі былі Кіеўскае і Уладзімірскае. Той, хто валодаў імі, лічыўся як бы манархам русінаў. Кіеў быў сталіцай Чорнай Русі, Уладзімір — Белай». Больш дакладных прыкмет лакалізацыі Ч.Р., апроч знаходжання яе на Пд ад Белай, не было. «Кананічны» парадак размяшчэння «каляровых» частак Русі з ПнУ на ПдЗ — Белая, Чорная, Чырвоная — упершыню сустракаецца на карце *Фра Маўра* (1459), на якой Ч.Р. паказана на правабярэжжы Акі. На глобусе Меркатара (Лувен, 1541) Ч.Р. пазначана на У ад Пскова, як і на карце Скандынавіі О.*Магнуса* (1539). Польскі пісьменнік 17 ст. Ш.*Старавольскі* лічыў, што частка Ч.Р. — гэта «правінцыя Чарнігаўская». А.*Гваньіні* згадваў «чорных русінаў, сталіца якіх Львоў». Некаторыя карты Сансона д'Абевіля-бацькі паказваюць Ч.Р. паміж Львовам і Холмам. Яшчэ доўга ўслед за Флетчарам Ч.Р. называлі Маскоўскую дзяржаву, напр., Гваньіні ў выданні 1611, Андрэас Келер у 1659 і інш. У агульнапрынятым цяпер выглядзе падзел на Белую, Чорную і Чырвоную Русь узнік не раней за 17 ст. Старавольскі лічыў, што Белая Русь — частка ВКЛ, Чырвоная — усе ўкраінскія землі Польшчы, а Чорная — Маскоўская дзяржава, г.зн. ніяк не звязваў Ч.Р. з Панямоннем, хаця такая лакалізацыя ў тыя часы ўжо сустракалася. У 1622 Козіма дэ Торэс пісаў, што «Русь... дзеліцца на тры часткі: Чырвоную Русь з гарадамі Львовам, Перамышлем, да якой належыць і Валынь; Белую Русь, якая працягнулася ад Рыгі, сталіцы Ліфляндыі, да маскоўскай мяжы, уключаючы Полацк. Оршу, Віцебск, Магілёў; Чорную Русь, якая знаходзіцца паміж Літвой і Валынню, да Кіева з гарадамі Пінскам, Навагародкам і Оўручам». У «Геаграфічным лексіконе» базыльяніна І.*Карпінскага* (Вільня, 1766) суадносіны паміж 3 «каляровымі» часткамі Русі маюць практычна сучасны выгляд: Белая — Мсціслаўскае, Віцебскае, Полацкае, Смаленскае ваяв., Чорная — Навагародскае і Менскае ваяв., Чырвоная — усе ўкраінскія землі Польшчы. Ужо тады такі падзел лічылі першасным, адвечным, спрабуючы рэтраспектыўна ўзводзіць яго як мінімум да 14 ст. У сапраўднасці чляненне Русі на Белую, Чорную і Чырвоную штучнае і не было ўласцівае самім усх. славянам, пакуль да іх у 16—17 ст. шырока не пранікла еўрапейская адукаванасць.

*Літ.*: Белы А. Хроніка *Белай Русі* = Chronicon Russiae Albae: Нарыс гісторыі адной геагр. назвы. Мн., 2000.

*Алесь Белы.*

**чорныя людзі**, асноўная маса насельніцтва гарадоў ВКЛ у 15—16 ст. — рамеснікі, дробныя гандляры, інш. групы працоўнага насельніцтва. Напр., у 1440—41 у Смаленску адбылося паўстанне Ч.л. (кавалёў, гарбароў, шаўцоў, мяснікоў, кацельшчыкаў і інш.), накіраванае супраць велікакняжацкага намесніка Андрэя Саковіча, смаленскіх баяр і правасл. епіскапа. Пасля смерці (1440) вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча А.Саковіч прывёў гараджан да прысягі, але Ч.л. (рамеснікі) узброіліся і ў сак. таго ж года выступілі супраць намесніка і яго прыхільнікаў. Паўстанцы ўтапілі ў Дняпры маршалка Петрыка, а намеснікам смаленскім прызначылі кн. А.Дз.Дарагабужскага. Пасля абвяшчэння вял. князем Казіміра IV Ягелончыка смаленскія Ч.л. выбралі гасударам смаленскім мсціслаўскага кн. Юрыя Лугвенавіча, які заняў Полацк і Віцебск, але неўзабаве пацярпеў паражэнне і ўцёк у Ноўгарад. А.Саковіч зноў быў пасаджаны велікакняжацкім намеснікам, а паўстанцы пакараны. У грамаце (жн. 1456) вял. кн. Казіміра IV Ягелончыка жыхарам Полацка таксама ўпамінаюцца Ч.л. Полацка разам з мяшчанамі, гарадскімі дваранамі і «ўсім паспольствам».

*Анатоль Грыцкевіч.*

**чужаземцы**, падданыя і ўраджэнцы іншых дзяржаў і зямель у ВКЛ, у т.л. польскія шляхціцы і магнаты. Нягледзячы на саюзныя адносіны паміж ВКЛ і Польшчай, Ч. не мелі тых правоў, што мясцовыя ўраджэнцы. У Статуце ВКЛ 1529 запісана, што Ч. не маюць права атрымліваць пасады, землі, гарады і маёнткі (раздз. 3, арт. 3); калі шляхцянку ці дачку магната аддаюць замуж «до чужое земли, з Великого князства Литовского до Полщи або до Мозовш, або до которое-колве земли», то яе спадчынныя маёнткі пераходзяць братам і сёстрам або стрыечным (раздз. 4, арт. 9). Ёй выплачваўся толькі грашовы пасаг. Аналагічныя артыкулы меліся і ў Статуце ВКЛ 1566 (адпаведна раздз. 3, арт. 9). Артыкул 6 (раздз. 4) у Статуце ВКЛ 1566 быў заменены: Ч., які ажаніўся з мясц. шляхцянкай, абавязаны быў удзельнічаць у ваенных паходах; калі ён не ішоў на вайну, маёнтак яго жонкі (і яго) пераходзіў дзяржаве. У Статуце ВКЛ 1588 (раздз. 3, арт. 12) падкрэслівалася, што пасады і землі маглі давацца толькі ўраджэнцам ВКЛ — «только литве, руси, жомойти». Артыкул — 7-ы 5-га раздз. быў аналагічны 6-му артыкулу 4-га раздз. Статута 1566. Практычна Статут 1588 забараняў масавае перасяленне польскай шляхты на тэр. Беларусі і Літвы. Каб атрымаць тут шляхецкія правы шляхціцу-Ч., патрэбна была спец. пастанова сойма (*індыгенат*).

*Анатоль Грыцкевіч.*

**чынш** (польск. czynsz ад лац. census перапіс), грашовая рэнта ў Беларусі і Літве ў 15—1-й пал. 19 ст., адна з асноўных форм феадальнай зямельнай рэнты — аброку. Ч. узнік з развіццём таварна-грашовых адносін як асн. форма рэнты ў 16—18 ст. пераважна на У Беларусі. Быў асн. павіннасцю *асадных сялян, чыншавых сялян*, кунічных і аброчных сялян. Як дадатковую павіннасць Ч. плацілі і інш. феадальна-залежныя сяляне. У 1-й пал. 19 ст. называўся грашовым аброкам.

*Міхаіл Спірыдонаў.*

**чыншавая шляхта**, група дробнамаянтковай шляхты Беларусі ў 16—19 ст. Спадчыннай зямлі не мела, а арандавала яе за грашовы *чынш* у дзяржавы ці буйных землеўласнікаў (магнатаў). З уласнікам звычайна заключала вусную дамову аб арэндзе ад 1 да 15 гадоў. Фармальна належала да прывілеяванага саслоўя: мела асабістую недатыкальнасць, не падлягала ваенна-дарожным павіннасцям і інш. Соймавая канстытуцыя 1768 упершыню пацвердзіла права голасу Ч.ш. на сойміках, якога пазбаўлена Чатырохгадовым соймам 1.2.1791. Па стане на

1795—99 на ўсіх землях, далучаных да Рас. імперыі, складала 148 443 чал. мужчынскага полу з 218 025 чал. усёй шляхты, у т.л. ў Мінскай губ. 14 296 чал., у Беларускай губ. 245 чал., у Літоўскай губ. 20 326 чал. У 1796 урад меркаваў перасяліць на Пд імперыі у якасці казацкага войска да 4 тыс. двароў Ч.ш. з прадастаўленнем ёй па 30 дзесяцін зямлі ў спадчыннае валоданне без выплаты падаткаў. Царскім указам ад 19.6(1.7).1802 дапушчана да дваранскіх выбараў, калі арандавала зямлю не менш за 10 гадоў. Аднак пазней яе правы на дваранства падвяргаліся разбору рэвізскімі камісіямі. Законам ад 1(13).8.1857 Ч.ш., якая пражывала на памешчыцкай зямлі, аднесена да разраду вольных людзей, пры скасаванні прыгоннага права падвергласся абеззямельванню. 19.2(4.3). 1868 канчаткова ўраўнавана ў грамадзянскіх правах з сялянамі і гараджанамі.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Очерки из истории литовско-русского гражданского права. Гражданская право- и дееспособность // Журн. Мин-ва юстиции. 1903. № 7—8; 1905. № 7—8; Неупокоев В.И. Преобразование беспоместной шляхты в Литве в податное сословие однодворцев и граждан. (Вторая треть XIX в.) // Революционная ситуация в России в 1859—1861 гг. М., 1974. Т. 6; Rychlikowa I. Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772—1831 // Kwartalnik Historyczny. 1991. № 3.

***Яўген Анішчанка.***

**чыншавыя сяляне,** феадальна-залежныя сяляне ў Беларусі і Літве ў 15—1-й пал. 19 ст., галоўная форма феадальнай павіннасці якіх — грашовыя плацяжы (*чынш*). Ва *«Уставе на валокі»* 1557 Ч.с. называліся і *асаднымі сялянамі*. Ч.с. выконвалі і дадатковыя павіннасці (*дзякла, талака, згоны*). З развіццём *фальваркаў* колькасць Ч.с. мянялася: у выпадку патрэбы феадалы пераводзілі іх у катэгорыю *цяглых сялян* і наадварот. Павялічваліся і памеры чыншу. Найб. колькасць Ч.с. была ў 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст. У 1-й пал. 19 ст. Ч.с. называліся аброчнымі сялянамі, большасць іх пераведзена ў разрад паншчынных.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966; Чепко В.В. Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в. Мн., 1966; Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969; Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 1. Мн., 1997.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Чырвоная Русь,** традыцыйная назва некаторых усходне-славянскіх тэрыторый (пераважна Галіччыны і Валыні, а таксама сучаснай Беларусі) у заходне-еўрапейскіх крыніцах 16—19 ст. Тэрмін «Ч.Р.» пачаў ужывацца на Захадзе прыкладна тады ж, калі і *«Чорная Русь»*, і працяглы час канкурыраваў з ім за «права» абазначаць адны і тыя ж тэрыторыі. Бел. гісторык В.Л.*Насевіч* мяркуе, што «калісьці было адно супрацьпастаўленне (белы—чорны ці белы—чырвоны), якое затым расчапілася на два». Магчыма, упершыню назва Ч.Р. з'явілася ў «Хроніцы Канстанцкага сабора» У.Рыхенталя (1420-я г.). Мяркуючы па тым, што да яе быў аднесены Смаленск, менавіта Чырвонай называлі тады тую частку Русі, якая ўваходзіла ў ВКЛ, — задоўга да таго, як яе пачалі трывала называць Белай Руссю. На карце *Фра Маўра* (1459) побач з Літвой знаходзіцца не Белая, а менавіта Ч.Р. У яе ўваходзілі нібыта і Кіеў, і высунутая далёка на З, у параўнанні з рэальнасцю, Разань. Паводле Я.Ласкага (1514), чырвоныя русіны «знаходзяцца ў складзе Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага». На глобусе 1535 землі на Пд ад Жамойці названыя «Чырвоная Пскоўшчына» (г.зн. Ч.Р.). На карце Вопеля 1566 паўн. край Ч.Р. дасягае Слуцка і Капыля. Менавіта Ч.Р. была першай з «каляровых» назваў, якую на Захадзе свядома ўжывалі і для абазначэння сучаснай Беларусі. Аднак ужо на Айхштэцкай карце 1491 Ч.Р. паказана ў традыцыйным пазней значэнні «Галіцка-Валынская Русь». Як і ў выпадку з Белай і Чорнай Руссю, гэты стэрэатып з часам настолькі глыбока пранік у свядомасць гісторыкаў, што яны часта прыпісваюць ужыванне гэтай назвы такім крыніцам, у якіх ён на самай справе не сустракаецца.

*Літ.*: Белы А. Хроніка *Белай Русі* = Chronicon Russiae Albae: Нарыс гісторыі адной геагр. назвы. Мн., 2000.

***Алесь Белы.***

**чырвоны злоты,** 1) найбольш пашыраная ў 16—1-й чвэрці 19 ст. ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі на былых землях Рэчы Паспалітай назва асноўнай высакапробнай заходнееўрапейскай залатой манеты — *дуката* с лігатурнаю масаю 3,5 г. Афіцыйна абвешчаны курс Ч.з. ў 1451 — 14 і 16 *грошаў* (венгерскага і «спіскага» адпаведна), у 1496 — 30 грошаў, у 1505 — 32 грошы, у пачатку панавання Жыгімонта III [1587—1632] — 58 грошаў, у 1611 — 70 грошаў, у 1620 — 120 грошаў, у 1676 — 360 грошаў (меднымі солідамі), у 1717 — 540 грошаў (меднымі солідамі) пры практычна нязменнай масе, стандартнай для еўрапейскіх краін. Павышэнне курса ў лікавых грошах выклікана гал. ч. зніжэннем сярэбранага ўтрымання гроша ў дробнай манеце, на якую рэальна абапіраліся грашова-лікавыя адзінкі. У айчынных лацінскамоўных крыніцах 15—17 ст. Ч.з. адпавядае назва *«фларэн»* (floren). У 18—пачатку 19 ст. ў польска-, нямецка- і рускамоўных пісьмовых крыніцах на землях былой Рэчы Паспалітай пазначаецца грашовымі сімваламі «C#Złtch», «C##[ch]», «C##», «##», «#», якія ўтварыліся ад распаўсюджанага ў 18—19 ст. пазначэння тэкставых скарачэнняў і ўставак знакам «#». 2) У пісьмовых крыніцах 16—18 ст. у Рэчы Паспалітай вагавая адзінка для золата (сінанімічны зах.-еўрапейскі тэрмін «дукат» практычна не ўжываўся). 3) Пашыраная назва адзінкі грашовага ліку на цвёрдыя грошы (золата і серабро) ў Рэчы Паспалітай і Рас. імперыі на былых землях Рэчы Паспалітай у апошняй чвэрці 18—пач. 19 ст. Ч.з. — вышэйшы элемент у 3-ступеньчатай сістэме: Ч.з.—злоты—грош, які адпавядаў 18 ніжэйшым адзінкам (Ч.з. меў курс 18 злотых ці 72 грошы ў серабры).

*Літ.*: Szelągowski A. Pieniądz i przewrót cen w XVI i XVII wieku w Polsce. Lwów, 1902; Gumowski M. Moneta złota w Polsce średniowiecznej // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Ser. 2. T. 30. Kraków, 1912; Яго ж. Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914.

***Іван Сінчук.***

**Чыстовіч** (Чистович) Іларыён Аляксеевіч (1828—1893), багаслоў і гісторык праваслаўнай царквы. Праф. багаслоўя (1862). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1854) і пакінуты ў ёй выкладчыкам. Аўтар прац



па гісторыі правасл. царквы і багаслоўі, у якіх даў характарыстыку адносін стараж.-грэчаскіх мысліцеляў і хрысціянства да пытання аб бессмяротнасці чалавека. Апублікаваў са сваімі каментарыямі перапіску наўгародскага мітрапаліта Іова. Вывучаў гісторыю правасл. царквы на Беларусі.

*Тв.*: Очерк истории западно-русской церкви. Ч. 1—2. СПб., 1882—84; С.-Петербургская духовная академия за последние 30 лет (1858—1888 гг.). СПб., 1889.

***Валерый Чарапіца.***

**чэлядзь нявольная**, у ВКЛ у 14—16 ст. найбольш бяспраўная катэгорыя залежнага і эксплуатуемага сельскага насельніцтва, якая звычайна не мела зямлі і інш. сродкаў вытворчасці, жыла ў дварах феадалаў, утрымлівалася імі і была іх поўнай уласнасцю. Сац. статус Ч.н. амаль цалкам адпавядаў статусу рабоў. Асн. прычынамі няволі былі нараджэнне ад бацькоў — Ч.н., шлюбы вольных з нявольнымі, самапродаж у вечную няволю, некат. крымінальныя злачынствы і палон. Ч.н. выконвала гал. ч. разнастайныя с.-г. работы, рэдка — адм.-гасп. абавязкі (*цівуны*, рыкунні). Пад уздзеяннем сац.-эканам. фактараў у 16 ст. Ч.н. паступова трансфармавалася ў прыгонных сялян. Асабліва інтэнсіўны характар гэты працэс набыў у ходзе правядзення *валочнай памеры*, калі ў дзярж. і шляхецкіх маёнтках Ч.н., як правіла, была надзелена невял. зямельнымі ўчасткамі і такім чынам ператварылася ў *агароднікаў* — адну з катэгорый прыгоннага сялянства. Статут ВКЛ 1588 паскорыў гэты працэс: згодна з ім, захоўвалася толькі адна прычына няволі — палон, уся астатняя Ч.н., у т.л. дзеці палонных, павінна была надзяляцца зямлёй і лічыцца *отчычамі*, г. зн. прыгоннымі сялянамі; замест ранейшай назвы «Ч.н.» ўводзілася новая — «челядь дворная, отчызная, материнская, купленая або полоненики». Працэс трансфармацыі Ч.н. у прыгонных быў адным з асн. шляхоў фарміравання класа прыгоннага сялянства Беларусі.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне-«огородники» в Великом княжестве Литовском в XVI—XVII в. // Академику Б.Д.Грекову ко дню семидесятилетия. М., 1952; Его ж. Рабы в поместье XIII—XVI в. в Великом княжестве Литовском // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1970 г. Рига, 1977; Пичета В.И. Юридическое положение сельского населения на частновладельческих землях ко времени издания Литовского статута 1529 г. // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Его ж. Институт холопства в Великом княжестве Литовском в XV—XVI вв. // Там жа; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Чэрвень** (да 1923 Ігумен, цяпер горад, цэнтр Чэрвеньскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., на р. Ігуменка (цяпер Чэрвенка). Вядомы з 1387 пад назвай Ігумен. У 1-й пал. 15 ст. мястэчка, уласнасць Кезгайлаў, з 1447 — віленскага біскупа, царк. мястэчка. У *антыфеадальную вайну 1648—51* сяляне і казакі каля Ігумена разграмілі атрад харужага Я.Паца. У час войнаў Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўночнай 1700—21 Ігумен разрабаваны і моцна разбураны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.



**Чэрыкаў** (цяпер горад, цэнтр Чэрыкаўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав., на р. Сож. Вядомы з 16 ст. як в. Чаракова, цэнтр воласці Магілёўскай эканоміі. З пач. 17 ст. горад, у 1641 атрымаў магдэбургскае права, меў герб: у блакітным полі сярэбраны мур з трыма вежамі, у цэнтральнай — брама з рыцарам, узброеным дзідай. У 1649 у Ч. каля 2 тыс. жыхароў. У *антыфеадальную вайну 1648—51* у пач. кастр. 1648 казакі пад камандаваннем Крывашапкі занялі Ч., адкуль рабілі наезды на шляхецкія маёнткі Мсціслаўскага ваяв. Казакоў у Ч. разбіў атрад полацкай шляхты на чале з кн. Лукомскім. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Ч. спустошаны; хутка адноўлены, з 1678 зноў меў статус горада, цэнтр воласці (павета) Мсціслаўскага ваяв. У *Паўночную вайну 1700— 21* у 1708 пацярпеў ад шведскіх войск. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**чэснік**, гл. *Чашнік*.

**чэх**, у пісьмовых крыніцах Рэчы Паспалітай, а таксама Маскоўскай дзяржавы 17—1-й пал. 18 ст. назва тыпалагічна блізкіх манет падобнай вартасці — айчыннага *паўтарака*, нямецкага драйпёлькера, маскоўскага сеўскага перайманя кароннага паўтарака. Магчымае паходжанне назвы з-за тыпалагічнага падабенства да апфельгрошэна («гроша з яблыкам») Свяшчэннай Рымскай імперыі, у склад якой уваходзілі суседнія з Каронай Польскай чэшскія землі.

***Іван Сінчук.***



**Шаблюк** Валерый Уладзіміравіч (3.8.1953, г.п. Узда Мінскай вобл.—2.5. 1997), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1975). З 1976 настаўнік сярэдняй школы, з 1980 працаваў у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследаваў сельскія паселішчы і мястэчкі 14—18 ст. ў бас. Нёмана.

*Тв.*: Гістарычная тапаграфія і планіроўка мястэчак верхняга Панямоння // Гіст.-археалагічны зб. Мн., 1994. № 3; Забудова прынёманскіх мястэчак у 16—18 стст. // Там жа. Мн., 1995. № 6; Да пытання фарміравання мястэчак Беларускага Панямоння // Там жа. 1996. № 10; Двор у Тuганавічах. Мн., 1995; Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV—XVIII стст. Мн., 1996; Замак у Свержні // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1997. Вып. 2.

**шабля** (венг. szablya ад szabni рэзаць), сякучая халодная зброя з выгнутым адналязовым клінком і дзяржаннем (эфесам). Першапачаткова вядома ў Персіі, Асірыі, Егіпце. У 9 ст., дзякуючы кантактам з хазарамі, полаўцамі і печанегамі, трапіла на ўсх.-слав. землі. На Беларусі пад уплывам польскага і венгерскага ваеннага мастацтва Ш. асабліва шырока выкарыстоўвалі з канца 16 ст., калі яна стала неад'емнай часткай баявога рыштунку лёгкай конніцы і любімай зброяй шляхты. Даўжыня клінка Ш. 80—95 см, вага 2—2,5 кг. З 2-й пал. 17 ст. яе дзяржанне забяспечвалася ахоўным прыстасаваннем (было замкнутым). Шабельнікі ВКЛ сканструявалі «фурдумент» — спец. шчыток, які закрываў кісць рукі. Ш. бел. майстроў, у прыватнасці магілёўскіх, у 17 ст. карысталіся попытам у Расіі і Польшчы.

*Генадзь Сагановіч.*

**Шабульда** (Шабульдо) Фелікс Міхайлавіч (н. 21.4.1941, г. Улан-Удэ, Бурація), украінскі гісторык. Канд. гіст. навук (1983). Скончыў Кіеўскі ун-т (1968). У 1958—62 працаваў слесарам у Аб'яднаным канструктарскім бюро А.К.Антонава, 1962—64 архіварыус Кіеўскага гар. архіва, у 1964—68 малодшы навук. супрацоўнік Цэнтр. дзярж. гіст. архіва Украіны ў Кіеве, у 1968—70 рэдактар рэдакцыі час. «Український історичний журнал», у 1970—75 і 1979—90 у Ін-це гісторыі АН Украіны (з 1987 старшы навук. супрацоўнік), у 1975—79 у Т-ве «Веды» Украіны, у 1991—96 у Ін-це ўкр. археаграфіі і крыніцазнаўства АН Украіны (у 1991—93 заг. сектара наратыўных помнікаў, у 1993—94 в.а. загадчыка аддзела актавых крыніц княжацкай і казацкай эпохі, у 1995—96 дактарант), у 1997—2001 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі Украіны НАН Украіны. Даследуе інкарпарацыю ўкр. зямель у склад ВКЛ, паліт. адносіны ВКЛ з Залатой Ардой і Крымскім ханствам у 14—15 ст., ярлыкі крымскіх ханаў на землі Украіны ў 15—1-й пал. 16 ст. Адзін з аўтараў «Гісторыі Украінскай ССР» («Історія Української РСР», т. 1, кн. 2, Кіеў, 1979).

*Тв.*: Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987; Дипломатика // Вспомогательные исторические дисциплины: Историография и теория. Киев, 1988; Синьоводська проблема: можливий спосіб її розв'язання. Київ, 1998; Наративні джерела і перші дослідники про похід Ольгерда на Сині Води і Білобережжя // Україна в Центрально-Східній Європі: Студії з історії XI—XVIII століть. Київ, 2000; Витовт и Тимур: противники или стратегические партнеры? // Lietuva ir jos kaimynai: Nuo normanų iki Napoleono. Vilnius, 2001; Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретації // Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях. Київ, 2005.

**Шавула** Мацвей (?—1596), адзін з кіраўнікоў антыфеадальнага казацка-сялянскага паўстання на Украіне і Беларусі ў канцы 16 ст. Увосень 1595 на чале атрада запарожцаў рушыў на Беларусь на дапамогу паўстанцкаму войску С.*Налівайкі*. На левабярэжжы Дняпра казакі Ш. разам з бел. сялянамі рабавалі шляхецкія маёнткі. Перазімаваўшы ў Прапойску, атрад Ш. вясной 1596 праз Быхаў накіраваўся на Чарнігаўшчыну. У сак. 1596 Ш. выбраны запарожскім гетманам. У чэрв. 1596 у час бітвы пад Лубнамі старшына выдала Ш. камандаванню войска Рэчы Паспалітай. Пакараны смерцю ў Варшаве.

**Шадурскі** Станіслаў (18.9.1726, каля г. Дынабург—1789), беларускі і польскі філосаф. Адукацыю атрымаў у езуіцкіх калегіумах Вільні і Оршы, 3 гады выкладаў грэчаскую і лацінскую мовы ў Вільні і Варшаве. У 1752 з Віленскай акадэміі накіраваны працягваць адукацыю ў Парыж, дзе вывучаў тэалогію, філасофію, прыродазнаўства і матэматыку. З 1757 выкладаў філасофію ў Варшаўскім «Калегіум Нобіліум», у 1759—62 праф. філасофіі Навагарод-

скага калегіума. У гэты перыяд напісаў і апублікаваў усе свае філасофскія творы, з іх найб. значныя — у Навагародку: «Прынцыпы філасофіі мыслення і адчування» (1758), «Зачаткі разважанняў у розных дыялогах, а таксама практыкавання па логіцы, этыцы і метафізіцы» (1760), «Філасофскія азначэнні агульнай фізікі, выказаныя публічна аўтарам» (1761), «Фізіка, або Філасофія прыроды» (не апублікаваны). У 1762— 65 займаў пасаду прыдворнага капелана менскага ваяводы. У 1768—70 праф. тэалогіі і царк. права ў Гародні, у 1770—71 у Браневе. Потым яго выкладчыцкая і навук. дзейнасць па невядомых прычынах спынілася. У 1773 пасля забароны ордэна езуітаў Ш. выйшаў з яго.

Ш. — найб. вядомы прадстаўнік натурфіласофіі 2-й пал. 18 ст. У яго тэарэтычных працах адлюстраваўся працэс распаду схаластычнай філасофіі і станаўлення філасофскай і прыродазнаўчай думкі новага часу. Ён лічыў, што ў тэорыі пазнання неабходна гарманічна спалучаць рацыяналізм і эмпірызм, а гал. крытэрыем ісціны павінна быць відавочнасць, не адмаўляючы пры гэтым ролі гіст. аўтарытэту, веры і думкі. У галіне фармальнай логікі Ш. разглядаў традыцыйныя для схаластыкі аперацыі розуму (паняцце, суджэнне і вывад), пытанні тэорыі дэдуктыўнага разважання (сілагістыкі), семантыкі і аналогіі выказванняў. Паводле Ш., чалавек — псіхафізічнае быццё, спалучэнне матэрыі і духу, а цела і душа ўзаемазалежныя і ўздзейнічаюць адно на адно. Ш. быў прыхільнікам эклектычнай філасофіі, якая існавала на Беларусі і пасля распаду схаластычнай філасофіі як гістарычна непазбежнага этапу ў развіцці духоўнай культуры, асэнсавання аб'ектыўнай неабходнасці сац. пераўтварэнняў і рэформ. Таму ён лічыў магчымым карыстацца рознымі філасофскімі сістэмамі і запазычваў з іх толькі тое, што ўяўлялася яму дакладным і не выклікала сумнення. У вырашэнні праблемы суадносін матэрыі і свядомасці Ш. падзяляў дуалізм Р.Дэкарта, але адначасова спрабаваў аб'яднаць яго вучэнне аб прыроджаных ідэях са схаластычным палажэннем аб інтэлектуальным пазнанні. Ш. выступаў супраць атэізму і пантэізму і ў гэтай сувязі падрабязна разглядаў погляды Б.Спінозы, Дж.Берклі і інш. філосафаў. Асаблівай увагі заслугоўваюць яго рацыянальна-эмпірычны погляд на прыродазнаўства, спробы вытлумачыць рэліг. догматы з дапамогай законаў механікі, выкладанне законаў дынамікі, статыкі, оптыкі і інш. Філасофія Ш., якую ён сам называў «філасофіяй розуму і адчування», з'яўляецца значным укладам у развіццё навуковай і грамадскай думкі Беларусі, Літвы і Польшчы.

*Тв.*: Философские положения по общей физике // Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991.

*Літ.*: Б и р а л о А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971; Ц у к е р м а н А.Я. Философская мысль в Белоруссии середины XVIII в. Мн., 1980.

***Станіслаў Дубянецкі.***

**Шалькевіч** Вячаслаў Феліксавіч (н. 18.9.1941, ст. Ганзурына Івалгінскага р-на, Бурацiя), беларускі філосаф і гісторык. Д-р філас. навук (1994). Скончыў БДУ (1967). У 1970—86 і 1989—2000 выкладчык БДУ (з 1994 праф. кафедры паліталогіі), у 1986—89 дацэнт Вроцлаўскай с.-г. акадэміі (Польшча), з 2002 у Мінскім ін-це кіравання. Навук. працы па гісторыі грамадска-паліт. і філасофскай думкі Беларусі, Расіі і Польшчы 16—20 ст., аб жыцці і дзейнасці К.Каліноўскага, Ф.Скарыны, К.Лышчынскага; пра светапогляд Вальтэра, Э.Канта, Сен-Сімона, Л.Феербаха, К.Маркса, С.Канарскага і інш. Адшукаў у кнігасховішчах і бібліятэках Польшчы шэраг каштоўных крыніц па гісторыі паўстання 1863 і гісторыі грамадска-паліт. думкі Беларусі 19 ст. Аўтар прадмовы і адзін са складальнікаў зборніка дакументаў і матэрыялаў «К.Каліноўскі: З друкаванай і рукапіснай спадчыны» (1988), бібліяграфічнага паказальніка «Кастусь Каліноўскі» (2000).

*Тв.*: Філасофская думка ў Беларусі. Мн., 1976; Скарына і наш час. Мн., 1979; Казимир Лыщинский. Мн., 1986 (з К.С.Пракошынай); Кастусь Калиновский: Страницы биогр. Мн., 1988; Скорина и Скориниана. Мн., 2001; Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. 3 выд. Мн., 2002.

**шамбялян**, ганаровая прыдворная пасада ў Рэчы Паспалітай у 18 ст. Павінен быў знаходзіцца пры асобе манарха для ганаровых паслуг у час цырымоній. Пасада існавала як узнагарода магнатам, шмат Ш. прызначыў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Ш. атрымлівалі аплату ад караля. Сімвал пасады — пазалочаны ключ, які насіўся на левым бядры. У іншых краінах Ш. адпавядала пасада камергера.



Ключ **шамбяляна** часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага (са збораў В.Федаровіча ў Віцебску).

**шанок**, адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у ВКЛ. Былі 2 Ш. — стары па 48 малых гарцаў (135,54 л), новы па 24 малыя гарцы (67,77 л). Кобрынскі Ш. у сярэдзіне 18 ст. адпавядаў 1/4 віленскай бочкі (101,635 л).

**Шапака́** (Šapoka) Адольфас (13.2.1906, в. Грыбяляй Уцянскага р-на, Літва—9.3.1961), літоўскі гісторык. Д-р гісторыі (1938). Скончыў Каўнаскі ун-т (1929), пасля вучыўся ў Празе. У 1932—40 выкладаў у Каўнаскім, у 1941—44 дацэнт Вільнюскага ун-та. У 1944 выехаў у Германію, у 1948 — у Канаду, жыў у Манрэалі і Таронта. У 1949—61 рэдактар час. «Tėviškės žiburius», быў заг. аддзела гісторыі Ін-та літуаністыкі, супрацоўнікам «Літоўскай энцыклапедыі». Даследаваў гісторыю ВКЛ 15—18 ст., яго адносіны з Польшчай і Швецыяй. Аўтар кніг «Літва і Польшча ў часы Ягайлы» («Lietuva ir Lenkija Jogailos laikais», Каўнас, 1935), «Літва і Польшча пасля Люблінскай уніі 1569 г.» («Lietuva ir Lenkija po 1569 m. Liublino unijos», Каўнас, 1938), «Шляхецкая «дэмакратыя»» («Bajoriškoji «demokratija», Каўнас, 1942), «Стары Вільнюс: Нарыс гісторыі горада



Вільнюса да канца XVII ст.» («Senasis Vilnius: Vilniaus miesto istorijos bruožai iki XVII a. pabaigos», Бруклін, 1963), «Кейдански дагавор 1655 года, або Шведы ў Літве ў 1655—1656 гадах» («1655 metų Kėdainių sutartis arba Švedai Lietuvoje 1655—1656 metais», Вільнюс, 1990). Рэдактар і адзін з аўтараў «Гісторыі Літвы» («Lietuvos istorija», 1936; 2 выд. 1989).

*Літ.*: Šapoka M., Šapoka G. Istorikas Adolfas Šapoka ir jo darbų bibliografija. Punskas, 2006.

**Шаптыцкі** Афанасій (свецкае імя Антоній; 1685, с. Уваскрэсенцы, Галіцыя—11.12.1745), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Са шляхты. З 18.5.1713 архімандрыт унеўскі, адначасова каад'ютар (памочнік) свайго дзядзькі епіскапа львоўскага. У 1715—45 епіскап львоўскі, галіцкі і камянецкі; адначасова ў 1727—28 каад'ютар мітрапаліта Л.*Кішкі*, у 1729—45 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. Пашыраў унію ў Магілёўскай епархіі і на Правабярэжнай Украіне за кошт правасл. прыходаў. Канфліктаваў з базыльянамі, якія напачатку не прызнавалі яго мітрапалітам. У адпаведнасці з пастановамі *Замойскага сабора 1720* выпраўляў богаслужэбныя кнігі, уводзіў у практыку каталіцкі сімвал веры, завяршыў друкаванне новага «Служэбніка» (Супрасль, 1727—32) і выдаў свой (Унеў, 1739). Выступаў супраць пераходу уніятаў у лацінскі абрад. Звяртаўся ў Рым (19.10.1744) з просьбай пацвердзіць забарону змены абраду. 19.9.1730 каранаваў *Жыровіцкі абраз Маці Божай*.

***Сяргей Казуля.***

**Шаптыцкі** Леў (свецкае імя Людвік; 23.8.1717—25.5.1779), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Д-р кананічнага права. Са шляхты. Вучыўся ў Львоўскім калегіуме тэатынаў, вывучаў багаслоўе і права ў Рыме. Пасля вяртання ў Рэч Паспалітую прыняў манаства ў ордэне *базыльян*. Архімандрыт Мелецкага манастыра на Валыні (1743—49), епіскап львоўскі, галіцкі і камянецкі (1749—79). Быў каад'ютарам з правам наступства пры мітрапаліце Ф.*Валадковічу*, у час яго ўдзелу ў Барскай канфедэрацыі і наступных уцёкаў (1768—70) часова кіраваў Кіеўскай мітраполіяй. З 24.2.1772 генеральны адміністратар Кіеўскай мітраполіі. Фактычна выконваў функцыі мітрапаліта на ўкр. частцы мітраполіі. З лютага 1778 да канца жыцця мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. У царк. жыцці быў прыхільнікам павышэння ролі белага духавенства і абмежавання ўплыву базыльян, якіх імкнуўся пазбавіць права займаць пасады епіскапаў.

***Сяргей Казуля.***

**Шарамецеў** (Шереметев) Васіль Пятровіч (?—1659), расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. У 1610 прыхільнік Ілжэдзмітрыя II, пасля прысягнуў каралевічу Уладзіславу Жыгімонтавічу як цару маскоўскаму. У 1612 у апалчэнні Дз.М.Пажарскага. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. У 1634—39 ваявода ў Ніжнім Ноўгарадзе. З 1641 баярын. У 1645—46 узначальваў Разбойніцкі прыказ. У 1648—49 ваявода ў Казані. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* узначальваў паўн. групоўку рас. войска, якая канцэнтравалася ў раёне Вял. Лук (ад 10 да 15 тыс. чал.). 11.6.1654 узяў Невель, 27.6.1654 — Полацк, 27.11. 1654 — Віцебск (ваяводам туды прызначаны яго сын Мацвей). У 1655 збіраў войскі ў Вял. Луках для паходу на Вільню, але з-за шведскай пагрозы вёў толькі лакальныя ваенныя дзеянні (узяў Веліж, аблажыў Азярышча). З канца 1655 у Маскве.

**Шарашова** (цяпер гарадскі пасёлак у Пружанскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Берасцейскім пав., на р. Левая Лясная (бас. Буга). Вядома з 1380 як вёска. У пач. 16 ст. уладанне берасцейскага старасты Ю.Іллініча. У 1536 Ш. купіла каралева Бона і дала яму гар. правы. Было ў складзе Камянецкага, з 1566 Берасцейскага пав. Было дзярж. уласнасцю. З 16 ст. цэнтр войтаўства Кобрынскага стараства. Разбурана ў вайну з Расіяй 1654—67 (у 1664 для аблягчэння аднаўлення было вызвалена ад падаткаў на 4 гады), Паўн. вайну 1700—21. Стала цэнтрам нягродавага старасства, якое трымалі Флемінгі, Чартарыйскія. У 1776 пазбаўлена гар. правоў. У 1792 яны аднoўлены, Ш. атрымала герб з выявай архангела Гаўрыіла. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Шарашоўскае Евангелле**, беларускі рукапісны помнік 16 ст. У 16—17 і 19 ст. Ш.Е. было напрастольным у царкве мяст. *Шарашова*. Тэкст напісаны чорным чарнілам, загалоўкі — кінавар'ю. Мастацкае аздабленне складаецца з 4 мініяцюр з выявамі евангелістаў, выкананых чырвонай, карычневай і залаціста-зялёнай фарбамі, 5 заставак, малюнкаў на палях (раслінная арнаментыка) і ініцыялаў. Зберагаецца ў Нац. мастацкім музеі Беларусі.

***Віктар Шматаў.***

**Шаркаўшчына** (Шаркоўшчына, цяпер гарадскі пасёлак, цэнтр Шаркаўшчынскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав., на р. Дзісна. Вядома з 1503 як маёнтак Зяновічаў. Пазней належала Сапегам, Дамброўскім, Лапацінскім. Побач з маёнткам узніклі мястэчкі Старая Ш. і Новая Ш. (з 1767), якія ў пач. 20 ст. зліліся з маёнткам. У 18 ст. ўзведзены мураваны палац, пабудавана царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**шарыткі**, сёстры міласэрнасці (франц. Filles de la Charité), рымска-каталіцкі жаночы манаскі ордэн. Заснаваны ў 1629 у Парыжы Вінцэнтам з Паўла і Людвікай дэ Марыльяк. Паводле статута, зацверджанага рымскім папам Клементам IX у 1668, Ш. арганізацыйна падначалены *місіянерам*. Гал. мэтамі ордэна былі апека над хворымі, беднымі, выхаванне сірот, адукацыя дзяўчынак; трымалі шматлікія шпіталі, радзільныя дамы, дзіцячыя прытулкі, школы. Ш. бралі манаскія зарою на 1 год (жадаючыя штогод працягвалі іх), перад гэтым павінны былі вытрымаць 5-гадовы выпрабавальны тэрмін. Насілі шэры габіт, на галаве — белы карвет.

У Польшчу Ш. запрошаны ў 1652 каралевай Людвікай Марыяй Ганзага (жонка Яна II Казіміра). У ВКЛ першыя іх шпіталь і школа заснаваны ў 1716 у г. Белая Берасцейскага ваяв. канцлерам ВКЛ К.С.*Радзівілам*. Пазней утворана Літоўская правінцыя Ш., якая аб'ядноўвала пляцоўкі ў Шчучыне (заснавала ў 1742 Тэрэза Сцыпіён, школа для дзяўчынак-сірот існавала да 1830-х г., шпіталь — да 1860-х г.), Вільні (цэнтр. дом-шпіталь Ш. заснаваў у 1744 біскуп смаленскі Багуслаў Гасеўскі; шпіталь Дзіцяці Ісуса заснаваў у 1786 скарбнік віленскі Казімір Валодзька; генеральны шпіталь св. Якуба

перададзены Ш. у 1809), Асвеі (заснавалі ў 1759 біскуп смаленскі Ежы Гільзен, ваявода менскі Ян Аўгуст Гільзен і яго жонка Канстанцыя Казіміра), Гарадку (Камянецкі пав., 1766), Житоміры (1766), Беластоку (заснаваў у 1768 гетман вял. каронны Я.К.Браніцкі), Цеханаўцы (1789), Краславе (Інфлянцкае ваяв., заснавала ў 1789 Аўгуста Плятэр). Усе ўстановы Ш. у Беларусі, Літве і Украіне зачынены рас. ўладамі ў 1864—67.

*Літ.*: Rosiak S. Prowincja litewska sióstr miłoserdzia. Wilno, 1933.

***Валерый Пазднякоў.***

**шаснаццатка**, адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у ВКЛ. Раўнялася 1/16 віленскай *бочкі*, або 9 шынковым (малым) гарцам (25,41 л).

**шастак**, 1) сярэбраная манета Польскага каралеўства і Рэчы Паспалітай у 6 *грошаў*. У 17 ст. адзін з самых пашыраных наміналаў. На аверсе партрэтная выява манарха, на рэверсе гербы Польскага каралеўства, ВКЛ, родавы герб караля і пазначэнне наміналу. Лігатурная маса Ш. Жыгімонта III 4,0—4,8 г, дыяметр 25—26 мм, таўшчыня 1 мм, проба 844 праміле (ардынацыі 1580, 1604), 453 праміле (ардынацыя 1623). Лігатурная маса Ш. Яна II Казіміра, бітых паводле ардынацыі 1650, 1,9 г, дыяметр 21 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 875 праміле, паводле ардынацыі 1652, лігатурная маса 3,8 г, дыяметр 25—26 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 437 праміле, паводле ардынацыі 1658, лігатурная маса 3,5 г, дыяметр 25—26 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 375 праміле. Лігатурная маса Ш. Яна III Сабескага, бітых паводле ардынацыі 1677, 3,4 г, дыяметр 25 мм, таўшчыня 0,9 мм, проба 375 праміле. У 18 ст. Ш. Рэчы Паспалітай выпускаліся Аўгустам II у Саксоніі (каронныя 1698, 1702, 1704, 1706) і на дакладна нявызначаным манетным двары па-за межамі Рэчы Паспалітай (літоўскія 1706—07, т.зв. гарадзенскія; біты, відаць, у Маскве альбо Лейпцыгу), Аўгустам III [1733—63] у Саксоніі і на гарадскіх манетных дварах, Станіславам Аўгустам Панятоўскім [1764—95] у Варшаве і на гарадскіх манетных дварах. 2) Сярэбраная манета герцагства Прусіі ў 6 грошаў. У канцы 17—пач. 18 ст. ў абарачэнне ў Рэчы Паспалітай масава ўвайшлі метралагічна падобныя Ш. герцагаў Фрыдрыха Вільгельма [1640—88] і Фрыдрыха III [1688—1713, кароль з 1701] як вынік арыентацыі феад. сельскай гаспадаркі на экспарт. Прыток манет Прусіі быў спынены *Паўночнай вайной 1700—21*. 3) Сярэбраная манета Маскоўскай дзяржавы з лацінскімі легендамі з выяваю Пятра I [1682—1721] і двухгаловым арлом для замежных плацяжоў. Выпускалася ў 1707—08 без пазначэння намінала для забеспячэння дзейнасці войск саюзнікаў на тэр. Рэчы Паспалітай. Манеты рабіліся адпаведна паказчыкам Ш. Рэчы Паспалітай — лігатурная маса 2,8—3,4 г, дыяметр 23—25 мм, таўшчыня 0,8 мм, проба 375 праміле. Былі ў абарачэнні ў Рэчы Паспалітай да сярэдзіны 18 ст. 4) Сярэбраная манета Рас. імперыі для плацяжоў у Прусіі ў час Сямігадовай вайны 1756—63, білася ў 1759—62 з лацінскімі легендамі адпаведна паказчыкам Ш. Прускага каралеўства; лігатурная маса 2,8 г, проба 306 праміле. 5) Сярэбраная манета Аўстрыйскай імперыі з лацінскай легендай з імперскім гербам і пазначэннем наміналу, выпускалася ў 1794 для забеспячэння дзейнасці войск на тэр. Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Gumowski M. Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914; Kurpiewski J. Katalog monet polskich 1649—1696: (Jan Kazimierz — Michał Korybut Wiśniowiecki — Jan III Sobieski). Warszawa, 1982; Рябцевич В.Н. Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I. Тольятти, 1995; Синчук И.И. Прусские монеты на белорусских землях Речи Посполитой в 17—18 вв. // Славяне и их соседи: Сб. тезисов 16-й конференции памяти В.Д.Королюка. М., 1997; Какареко В. Гродненский монетный двор 1706—1707 гг. // Mennice między Bałtykiem a Morzem Czarnym — wspólnota dziejów. Warszawa, 1998; Ivanauskas E., Douchis R.J. Coins of Lithuania 1386—1707. Vilnius; Columbia, 1999.

***Іван Сінчук.***




**Шастакі**: 1 — Жыгімонт III (1599); 2, 3 — Ян II Казімір (1660, 1665); 4 — Ян III Сабескі (1683); 5 — Аўгуст III (1755); 6 — Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1794).

**шатландцы**, гл. *Шкоты*.

**Шаўковіч** (Шоўкавіч) Сямён Вуколавіч [3(15).5.1840, в. Тонеж Мазырскага пав.—8(20).10.1886], гісторык, археограф. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, Кіеўскі ун-т (1863). З 1864 настаўнік Віленскага мужчынскага дваранскага ін-та (пасля рэарганізацыі — рэальная прагімназія, з 1868 — рэальнае вучылішча). З 1870 чл. Віленскай археаграфічнай камісіі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы 14 тамоў прац камісіі. Аўтар прадмоў да 4-га, 5, 9 і 13-га тамоў *Актаў Віленскай камісіі*, *«Пісцовай кнігі былога Пінскага стараства»* (1874), *«Рэвізіі Кобрынскай эканоміі»* (1876), *«Пісцовай кнігі Гродзенскай эканоміі»* (1881—82) і інш. Падрыхтаваў «Зборнік палеаграфічных здымкаў са стара-



жытных грамат і актаў, якія захоўваюцца ў Віленскім цэнтральным архіве і Віленскай публічнай бібліятэцы» (1884), у якім змешчаны ўзоры дзелавой пісьменнасці ВКЛ 15—16 ст. Навук. погляды Ш. адрозніваліся крайнім манархізмам і паланафобіяй, што асабліва характэрна для падрыхтаваных ім прац «Зборнік артыкулаў, якія тлумачаць польскую справу адносна Заходняй Расіі» (вып. 1—2, 1885—87), «Аб межах Польскай кароны і Вялікага княства Літоўскага» (1885).

*Літ.*: Вруцевич А.С. Памяти заслуженного преподавателя С.В.Шолковича. Вильна, 1886; Пятидесятилетие Виленской комиссии для разбора и издания древних актов, 1864—17.4.1914: Юбилейная зап. Вильна, 1914; Улащик Н.Н. Исследования по истории Белоруссии сотрудников Виленской археографической комиссии // Проблемы истории общественного движения и историографии. М., 1971.

***Міхась Шумейка.***

**Шаўліскае паўстанне 1769**, выступленне сялян *Шаўліскай эканоміі* супраць прыгнёту. Пачалося з-за павелічэння ў эканоміі чыншу і ўвядзення фальварачна-прыгоннай сістэмы гаспадарання. Ініцыятарам змен у гасп. сістэме выступіў падскарбі А.*Тызенгаўз*, які кіраваў эканоміяй з 1765. У 1768—69 з зямлі былі сагнаны жыхары 27 вёсак, створаны 21 фальварак, за кожныя $^1/_4$ валокі сяляне былі павінны адпрацоўваць 2 дні на тыдзень. Шырока практыкавалася прымусовая праца сялян на мануфактурах, забаранялася гандлёвая і прадпрымальніцкая дзейнасць. Асабліва становішча сялян пагоршылася з-за неўраджаю ў 1768. Адміністрацыя эканоміі сілай збірала падаткі, з-за іх нявыплаты забірала ў сялян жывёлу, карала лупцоўкай. Пачатку паўстання садзейнічала барацьба супраць караля *Барскай канфедэрацыі*. Паўстанне пачалося 13.7.1769, калі незадаволеныя сяляне разагналі адміністрацыю мяст. Жагары, захапілі яе маёмасць і касу. Паўсталі жыхары інш. населеных пунктаў. Сяляне адмаўляліся выконваць павіннасці, знявольвалі ўраднікаў эканоміі, выбралі са свайго асяроддзя і часткова з дробнай шляхты новае кіраўніцтва: Ш.Александровіча (шляхціц-настаўнік), М.Паўгу, Я.Радвілу, В.Маргеліса (усе войты), І.Кудрэвіча (шляхціц). Паўстанцы патрабавалі прызначыць новую адміністрацыю эканоміі, скасаваць фальваркі, адмяніць падводную павіннасць, прымусовую працу на мануфактурах, цялесныя пакаранні. Адміністрацыя паўстанцаў публічна засудзіла 12 вышэйшых службовых асоб эканоміі, з якіх 3 былі заключаны пад варту. У кастр. 1769 у эканомію ўведзены ўрадавыя войскі, што прывяло да спынення сял. выступленняў. Усяго ў хваляваннях удзельнічала каля 5 тыс. сялян, толькі нямногія з іх мелі агняпстрэльную зброю. 5 кіраўнікоў паўстання былі прыгавораны да смяротнага пакарання. 12.1.1770 Паўга і Радвіла пакараны смерцю, С.Язоўскі, Т.Марціноўскі і Маргеліс згодна з рашэннем караля вылупцаваны і пажыццёва зняволены. Былі пакараны і інш. удзельнікі паўстання. Сял. павіннасці часова былі паменшаны

*Літ.*: Janułajtis *A.* Powstanie włościan szawelskich w roku 1769. Wilno, 1921; Похилевич Д.Л. Аграрная реформа А.Тизенгауза и Шавельское восстание // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1958 г. Таллин, 1959; Marčenas R. Šiaulių ekonomijos valstiečių sukilimas 1769 m. Vilnius, 1969.

**Шаўліская эканомія**, дзяржаўнае зямельнае ўладанне ў ВКЛ ва Упіцкім павеце ў канцы 16—18 ст. Цэнтр — г. Шаўлі (цяпер Шаўляй, Літоўская Рэспубліка). Утворана ў 1588—89 разам з інш. *эканоміямі* для задавальнення патрэб каралеўскага двара. Асновай Ш.э. было Шаўліскае староства. Эканомію трымалі ў заставе магнаты М.К.Радзівіл Сіротка (з 1586), Г.Р.Валовіч (з 1622), А.Л.Радзівіл (1644—48), Г.М.Трызна (1649—52), К.Я.Сапега (1661—78). Выкуплена каралём Янам III Сабескім, за 600 тыс. злотых саступлена каралевічу Якубу Людвіку (1699—1740). У 1764 забрана ў скарб ВКЛ, знаходзілася ў кіраванні А.Тызенгаўза (1769—80), курляндскага князя (1780—83), С.Панятоўскага (з 1783). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у 1796 падаравана Кацярынай II П.Зубаву. У 1640 у Ш.э. 3 воласці, 37 войтаўстваў, 354 вёскі, 5183 валокі зямлі; у 1783 — 3 губерні (цэнтры ў вёсках Грудзі, Загоры, Янішкі), 3581 двор, 17 951 падданы; у 1795 — 3 губерні (Загоры, Шаўлі, Янішкі), 24 ключы, 6459 валок зямлі, 25 705 падданых. У эканоміі адбылося *Шаўліскае паўстанне 1769*, пачалося *паўстанне 1794* у ВКЛ.

*Літ.*: Kościałkowski S. Ze studiów nad dziejami ekonomji królewskich na Litwie // Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilno, 1914. T. 5; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

***Яўген Анішчанка.***

**шафар**, скарбовы ўраднік у ВКЛ. Павятовы Ш. выбіраўся шляхтай павета, адказваў за раскладку і збор дзярж. падаткаў. Забіраў у зборшчыкаў падаткаў (*паборцаў*) сабраныя грошы і адвозіў іх у дзярж. скарб у Вільню. Пры адсутнасці ў павеце паборцаў выконваў іх функцыі. У прыватных маёнтках Ш. выконвалі функцыі бухгалтараў, аканомаў.

**шахматы**, інтэлектуальная настольная гульня. Лічыцца, што Ш. з'явіліся на Пн Індыі прыкладна ў 2—4 ст. З Арабскага халіфату і Персіі гульня прыйшла ў Зах. Еўропу і Кіеўскую Русь. На тэр. Русі Ш. прыйшлі ў 8—9 ст. ад персаў і арабаў па маршруце Персія—Каўказ—Хазарскі каганат—Кіеў. Аднак не выключаецца магчымасць, што гульня была перададзена ўсх. славянам пры пасрэдніцтве сярэднеазіяцкіх народаў. Асабліва шырокае распаўсюджанне на тэр. Беларусі Ш. атрымалі ў перыяд ВКЛ. У Беларусі пры археалагічных даследаваннях знойдзена 36 вырабаў 13—17 ст., якія маюць адносіны да Ш. У асноўным гэта фігуры, іх фрагменты і нарыхтоўкі з косці і рогу, а таксама з дрэва (2 экз.), каменю, гліны і шкла (па 1 экз.). Выяўлены фігуры ў 15 месцах Беларусі (у гарадах, замках і вёсках): Полацк (8 экз.), Віцебск (7), Гародня (4), Менск (3), Навагародак, Друцк, Ліда (па 2), Магілёў, Гомель, Копысь, Мсціслаў, Слонім, Заслаўе, Дрысвяты, Лучна на Полаччыне (па 1 экз.). Самыя раннія (13 ст.) фігуркі выяўлены ў Навагародку і Віцебску, а найб. позняя (17 ст.) — у Віцебску, Полацку, Менску, Магілеве і Гародні. Шахматныя фігуры падзяляюцца на абстрактныя (сімвалічныя) страж.-рус. тыпу 13—15 ст. (26 экз.) і абстрактныя новага тыпу 16—17 ст. (10 экз.). Больш за ўсё знойдзена пешак (10 экз.), ферзёў і сланоў (па 6), выяўлены таксама ладдзі і фрагменты фігур (па 5), каралі (3), 1 нарыхтоўка. Вышыня фігурак 2—7 см. Кожная знойдзеная фігура адпавядае асобнаму камплекту Ш.




**Шахматы**, знойдзеныя пры археалагічных раскопках: 1 — ферзь (Друцк, 13—14 ст.); 2 — ладдзя (Віцебск, 13—14 ст.); 3 — ладдзя (Мсціслаў, 13—14 ст.); 4 — ладдзя (Ліда, 16—17 ст.); 5 — слон (Гародня, 13—14 ст.); 6 — слон (Менск, 13—14 ст.); 7 — пешка (Новагародак, 13—14 ст.); 8 — пешка (Заслаўе, 14—15 ст.); 9 — пешка (Віцебск, 14—16 ст.); 10, 11 — каралі (Полацк, 16—17 ст.); 12 — ферзь (Полацк, 15—16 ст.); 13 — слон (Менск, 17 ст.).

*Літ.*: Л и н д е р И.М. Шахматы на Руси. 2 изд. М., 1975; М я д з в е д з е в а В.У. Шахматы на тэрыторыі Беларусі XI—XVII стст.: (па матэрыялах археалагічных даследаванняў) // Гіст.-археалагічны зб. Мн., 2004. № 19; Я е ж. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі: (гіст.-археалагічнае даследаванне). Мн., 2005.

*Вольга Мядзведзева.*

**Шацілавічы** (Ш а ц і л к і; цяпер Светлагорск, горад, цэнтр Светлагорскага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Рэчыцкім пав., на р. Бярэзіна. Вядомы з 1560, калі вял. князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст перадаў Шатылінскі Востраў пасля смерці Рамана Шацілы зямяніну Ждану Манкевічу ў пажыццёвае ўладанне. Ад прозвішча Шацілы паходзіць назва Ш. Знаходзіліся ў *Бабруйскай воласці*, велікакняжацкае ўладанне. У вёсцы жылі сяляне і шляхта. У 1634 шляхціц Пётр Сулятыцкі падараваў участак зямлі езуітам, якія пабудавалі тут каля 1650 драўляны касцёл, утрымлівалі місіянерскі пункт. У 1639 было 19 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**шацунак**, ацэнка маёмасці ў грашовым выражэнні ў ВКЛ; пісьмовы акт (*рэестр*), які меў юрыдычнае значэнне пры судовым разглядзе грамадзянскіх спраў, афармленні спадчыны, дарчых, куплі-продажу. У Статуце ВКЛ 1588 падрабязна вызначаны Ш. на рухомую і нерухомую маёмасць.

**шашкі**, інтэлектуальная настольная гульня. Узніклі ў Егіпце ў 3—2-м тыс. да н.э.). На землі Русі прыйшлі ў 10 ст. са скандынаўскіх краін (паўсферычныя Ш.). Пляскатыя круглыя Ш. прыйшлі з Зах. Еўропы, дзе вядомы з 10 ст. На тэр. Беларусі перыяду ВКЛ пры археалагічных даследаваннях знойдзены 33 шашачныя фігуркі, іх нарыхтоўкі і бракаваныя вырабы 13—18 ст. у 13 месцах (у гарадах, замках і інш.). Больш за ўсё фігур і нарыхтовак выяўлена ў Віцебску (14 экз.), вядомы таксама ў Менску і Мсціславе (па 4), Лідзе (2), Новагародку, Полацку, Друцку, Клецку, Пінску, Крычаве, Шклове, Дуброўне, Старой Беліцы (па 1 экз.). Звычайна іх выраблялі на такарным станку з рогу лася або аленя, хаця сустракаюцца з дрэва (2 экз. ў Віцебску), гліны (Старая Беліца), каменю (Ліда), шкла (Віцебск). Большасць фігур мае дыяметр да 3 см пры вышыні 0,5 см. Самая маленькая шашка (2,2 x 0,5 см) знойдзена ў Шклове (яна ж і самая позняя, канец 17—1-я пал. 18 ст.), а самая вялікая (4,5 x 0,3 см) выяўлена ў Менску (16—17 ст.). Ш. перыяду ВКЛ адносяцца да 2 тыпаў: паўсферычныя (13 ст.) і круглыя пляскатыя (13—18 ст.). 2-і тып падзяляецца на некалькі падтыпаў: з канцэнтрыч-




**Шашкі**, знойдзеныя пры археалагічных раскопках: 1 — Віцебск, 13—14 ст.; 2 — Новагародак, 13 ст.; 3 — Пінск, 14 ст.; 4 — Віцебск, 16—17 ст.; 5 — Віцебск, 17 ст.; 6 — Мсціслаў, 16—17 ст.; 7 — Дуброўна, 17 ст.; 8 — Менск, 16—17 ст.; 9 — Шклоў, 17—18 ст.

нымі кругамі, з цыркульным арнаментам, камбінаваныя (з канцэнтрычнымі кругамі і цыркульным арнаментам), гладкія, з выявай. Пра шырокае распаўсюджанне гульні гаворыць месцазнаходжанне шашачных фігур: на княжацкім дзядзінцы, у феад. сядзібах і замках, на пасадах, у жыллі і майстэрнях рамеснікаў. Ёю захапляліся як прадстаўнікі вышэйшага саслоўя, пра што сведчаць знаходкі якасных Ш., так і простыя людзі, якія рабілі для сябе фігуркі з дрэва, гліны і каменю.

*Літ.*: Бубенько Т.С., Колединский Л.В. Шахматы и шашки в средневековом Витебске // Шахматы, шашки в БССР. 1984. № 4; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст.: (планіроўка, культурны слой). Мн., 1991; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. Мн., 2003.

*Вольга Мядзведзева.*

**Шварн** (?—1270?), князь галіцкі, вялікі князь літоўскі з 1267. Сын галіцка-валынскага кн. *Данілы Раманавіча*. Каля 1253 ажаніўся з дачкою вял. князя літоўскага *Міндоўга*. У 1256 з бацькам, братамі Львом і Раманам і ваўкавыскім кн. *Глебам* хадзіў на яцвягаў. У наступныя гады ўдзельнічаў у вызваленні некаторых гарадоў з-пад мангола-татарскай улады. У 1262 дапамагаў Міндоўгу ў нападзе на мазавецкага кн. Семавіта (забіў яго ў Яздаве пад Варшавай). Пасля смерці бацькі (1264) валодаў Усх. Галіччынай з г. Галіч, Забужжам з гарадамі Белз, Чэрвен, Холм, Мельнік, Дарагічын. У 1264 дапамог *Войшалку* захапіць трон у ВКЛ, адпомсціць *Траняту* за забойства Міндоўга, заваяваць *Нальшчаны* і Дзяволтву. Быў прыхільнікам аб'яднання сіл ВКЛ і Галіцка-Валынскага княства для барацьбы з яцвягамі і Польшчай. Неаднаразова нападаў на Польшчу. У 1267 атрымаў ад Войшалка велікакняжацкую ўладу ў ВКЛ. Пасля яго смерці вял. князем літоўскім стаў *Трайдзень*.

**Шведскае каралеўства**, дзяржава ў Паўночнай Еўропе. Да 1809 уключа-




**Шведскае каралеўства**. Картограф І.Б.Гоман. Нюрнберг. 17 ст.



ла ў свой склад тэр. сучасных Швецыі і Фінляндыі, у 1561—1721 ў Ш.к. ўваходзіў шэраг «усх.-балтыйскіх правінцый», якія мелі асобы адм. статус. У 1387—1521 Швецыя была у персанальнай уніі з Даніяй і Нарвегіяй (Кальмарская унія). У гэты час Швецыя захоўвала ўласную дзярж. сістэму, але адмовілася на карысць Даніі ад актыўнай знешняй палітыкі (за выключэннем дыпламатычных адносін з Масковіяй). Агульныя інтарэсы ў барацьбе з Масковіяй прывялі ў 1492—1506 да перагавораў Вільні і Стакгольма наконт дынастычнай уніі Швецыі і ВКЛ. У той час, калі ВКЛ часова выйшла з Крэўскай уніі з Польшчай, шведскія палітыкі (намеснікі Стэн Стурэ і Свантэ Нільсан) і паны-рада ВКЛ абмяркоўвалі выбар вял. князя літоўскага Аляксандра каралём Швецыі. Жаданне дацкага караля Крысціяна II узмацніць свой уплыў на Швецыю выклікала супраціўленне шляхты і святарства. Яго узначаліў Густаў Эрыксан Ваза, які ў 1523 каранаваны як кароль. У час праўлення Густава праведзены значныя рэформы, пачаўся перыяд актыўнай знешняй палітыкі («Перыяд магутнасці»). Краіна стала амаль цалкам лютэранскай (за выключэннем праваслаўных Карэліі і Інгерманландыі). Гэта значна умацавала ўнутранае становішча Ш.к., дзе ў 16—18 ст. жылі розныя этнасы: шведы, фіны, саамы, датчане, немцы, палякі, латышы, эстонцы, рускія. Паліт. сістэма Ш.к. базіравалася на раўнавазе 3 сіл: каралеўскай улады (спадчынная з 1544), парламента (рыксдага) з 4 палатамі, што прадстаўлялі асн. станы грамадства (сялянства, шляхту, мяшчанства, святарства), Дзяржаўнай рады, куды уваходзілі 5 вышэйшыхураднікаў —прадстаўнікоў арыстакратыі. З 17 ст. пачаў расці ўплыў дзярж. бюракратыі. Шляхта складала не больш за 1% насельніцтва. Сялянства (95% насельніцтва) было свабодным і мела значны паліт. ўплыў, бо падтрымлівала барацьбу караля супраць арыстакратыі. Пры гэтай падтрымцы Карл X у 1655 пачаў буйнейшую сацыяльную рэформу («рэдукцыю»), у час якой ў шляхты і арыстакратыі на карысць дзяржавы і сялянства было канфіскавана 25% маёнткаў.

У знешняй палітыцы Ш.к. ў 16—пач. 18 ст. кіравалася дактрынай «Dominium maris Baltici», што азначала дасягненне панавання над усім узбярэжжам і партамі Балтыйскага мора і ператварэнне яго ва «ўнутранае шведскае возера». У 1561 частка *Інфлянтаў* (Эстонія) перайшла да Ш.к. З гэтага часу і да 1721 ВКЛ і Ш.к. мелі агульную мяжу ў Інфлянтах (у 1622—35 яна праходзіла таксама ў раёне Клайпеды). 4.10.1562 брат караля Ёван Ваза, шведскі кіраўнік Фінляндыі, ажаніўся ў Вільні з дачкой вял. князя літоўскага Жыгімонта I Кацярынай. Мэтай шлюбу былі сепаратысцкія планы Ёвана, які хацеў з ваеннай дапамогай ВКЛ стварыць Вял. княства Фінляндскае. Гэты крок выклікаў адмоўную рэакцыю караля Эрыка XIV. За дзярж. здраду Ёван і Кацярына былі зняволены. У зняволенні ў іх нарадзіўся сын Жыгімонт, будучы кароль шведскі і польскі, вял. князь літоўскі і фінляндскі, які быў выхаваны маці-каталічкай у нянавісці да лютэранства (гл. *Жыгімонт III*).

У 1-й пал. 17 ст. адбывалася паступовае акружэнне Ш.к. тэрыторыі ВКЛ. У выніку *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* у 1622 большая частка літ.-польскіх Інфлянтаў стала часткай Ш.к. Да 1635 Ш.к. валодала прускім г. Мемель (Клайпеда). У 1645 стаў шведскім востраў Осел (Саарэмаа). У 1648 у склад Ш.к. ўвайшла Памеранія. Адносіны Ш.к. і ВКЛ у 1561—1661 вызначаліся барацьбой абедзвюх краін за Інфлянты. Ваенныя дзеянні перамяжоўваліся мірнымі дагаворамі (1611, 1617, 1618, 1621, 1622, 1627, 1635), некаторыя з якіх былі падпісаны ВКЛ сепаратна без згоды Польшчы (напр., дагавор, заключаны ў замку Балдоне ў 1627). Эканам. прычынай канфлікту з-за Інфлянтаў была праблема кантролю Рыжскага порта — буйнейшага для ВКЛ гандлёвага шляху ў Зах. Еўропу. Да эканам. канфлікту дадавалася дынастычная вайна польскаліт. і шведскіх Вазаў. У 1622 Інфлянты падзелены паміж Ш.к. і Рэччу Паспалітай, Рыга адышла да Ш.к. Контррэфармацыя ў Рэчы Паспалітай разам з эканам. і паліт. інтарэсамі прывяла пратэстанцкаю частку эліты ВКЛ на чале з Радзівіламі да праекту злучэння ВКЛ са Ш.к. У 1631 паслы К.*Радзівіла* Р.Коскуль і К.Скрабовіч пачалі ў Біржах і Рызе перагаворы пра паўстанне ВКЛ супраць Польшчы. Згодна з планам пасля смерці Жыгімонта III шведскі кароль Густаў II Адольф у выніку інтэрвенцыі ў Польшчу з ваеннай дапамогай ВКЛ і Украіны выбіраўся каралём Рэчы Паспалітай. У выніку паражэння прадугледжваўся паліт. прытулак ў Ш.к. для Радзівілаў і іх саюзнікаў. Гібель Густава II Адольфа ў 1632 у Германіі перашкодзіла ажыццяўленню гэтым планам. Падобны праект быў распрацаваны сынам К.Радзівіла Я.*Радзівілам* у 1648. Дзярж. канцлер Б.*Шутэ* прапанаваў у 1648 сенатарам Ш.к. «кінуць позірк на Рэч Паспалітую, дзе, як чакаецца, хутка тая ці іншая партыя будзе шукаць нашай дапамогі, напрыклад, ужо зараз лепшыя людзі Літвы сакрэтна шукаюць нашага запрашэння, каб аддзяліць Літву ад Польшчы і злучыць яе з Швецыяй». Рэалізацыяй гэтага плана стала заключэнне *Кейданскай уніі 1655*. У час *Паўночнай вайны 1655—60* Ш.к. неаднаразова мяняла мэты сваёй палітыкі адносна ВКЛ ад інкарпарацыі ВКЛ ў сваю дзяржаву да падзелу абшараў ВКЛ (гл. *Радноцкі дагавор 1656*, *Корсунскі дагавор 1657*).

Пасля *Аліўскага міру 1660* з Польшчай і Кардзіскага міру 1661 з Расіяй Ш.к. часова адмовілася ад экспансіі ў ВКЛ. Новы этап барацьбы Ш.к. з Польшчай і Расіяй за ВКЛ звязаны з праўленнем *Карла XII* і *Паўночнай вайной 1700—21*. У 1703—06 Ш.к. ўстанавіла кантроль над зах. і паўн. часткамі ВКЛ. У сваіх універсалах да ВКЛ Карл XII абвясціў сябе адказным за лёс княства — «генеральным распарадчыкам ВКЛ». На думку Карла XII, саюз караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II і цара Пятра I уяўляў пагрозу для будучыні ВКЛ. Карл XII заклікаў шляхту ВКЛ падтрымаць шведскае наступленне на Расію і абяцаў далучыць да ВКЛ Смаленскае ваяв. У 1708 Ш.к. ўстанавіла кантроль над усім ВКЛ. Але згодна дагавору Карла XII з гетманам Украіны І.Мазепай 1708 некаторыя абшары Беларусі (Бел. епіскапства) пераходзілі ў спадчынную ўласнасць Мазепы, які станавіўся герцагам Беларусі, якая па прыкладу Курляндыі рабілася васальным уладаннем Ш.к. Пасля паражэння ў 1709 пад Палтавай Ш.к. адмовілася ад актыўнай знешняй палітыкі ў ВКЛ, але працягвала аказваць дапамогу мясц. пратэстантам. У 1764 *Слуцкая канфедэрацыя* некаталіцкай шляхты звярнула-

ся з міжнар. адозвай, у т.л. да ўрада Ш.к. з просьбай «бараніць растаптаныя правы дысідэнтаў ВКЛ». У час *паўстання 1794* паліт. сімпатыі Ш.к. былі на баку паўстанцаў, але з-за боязі Расіі Ш.к. абмежавалася толькі пасылкай ў ВКЛ ваенных назіральнікаў.

*Літ.*: Tyszkiewicz E. Listy o Szwecij. T. 1—2. Wilno, 1846; Wejle C. Sveriges politik mot Polen, 1630—1635. Uppsala, 1901; Sandberg P. Fördraget i Kedainiai mellan Sverige och Litauen // Baltisk revy: en årsbok. Lund, 1938; Uddgren H.E. Karolinen Adam Ludvig Lewenhaupt: hans krigföring i Kurland och Litauen 1703—1708. Stockholm, 1950; Biskup M. Sveriges plats i Jagellonernas politik kring sekelskiftet 1500 // Scandia. 1979. Vol. 45. № 2; Катлярчук А. Шведы ў гісторыі й культуры беларусаў. Мн., 2002; Яго ж. In the Shadows of Poland and Russia: The Grand Duchy of Lithuania and Sweden in the European Crisis of the mid-17th Century. Stockholm, 2006.

***Андрэй Катлярчук.***

**Шклова абарона 1654.** Вялася войскамі ВКЛ у ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У жн. 1654 пад націскам пераважаючых маскоўскіх войск корпус вял. гетмана ВКЛ Я.*Радзівіла* (6—8 тыс. чал.) адышоў ад Оршы на Пд да Барані, пасля да Копысі і Шклова. 12 жн. пад Шклоў падышоў авангард войска маскоўскага ваяводы Я.К.*Чаркаскага* (усяго не менш за 20 тыс. чал.) і напаў на вайсковую варту Радзівіла, які абараняў горад. На дапамогу Чаркаскаму з У спяшаўся ваявода А.М.*Трубяцкой*. У гэтых умовах Радзівіл вырашыў даць бой Чаркаскаму, які пачаў атаку. Харугвы ВКЛ, прыкрытыя з флангаў драгунамі, што стаялі ў ярах, пераправіліся цераз р. Шклоўка і контратакавалі. У выніку шматгадзіннага бою маскоўская конніца адступіла да абозу і пяхоты, што была пры ім. Войска Чаркаскага панесла вял. страты — ад 3 да 7 тыс. чал. забітымі і 610 палонных. Радзівіл страціў забітымі ад 200 да 700 чал. Не маючы сіл працягваць бітву, у ноч на 13 жн. ён загадаў адступаць на 3 да Галоўчына і Барысава. 30 жн. пад Шклоў падышло войска Трубяцкога і пачало аблогу. Прыступ у ноч на 6 вер. быў адбіты. Пасля артабстрэлу, не чакаючы другога прыступу, 10 вер. абаронцы здалі Шклоў.

*Літ.*: Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974. С. 42—47; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995. С. 18; Кроль П. Беларуская кампанія 1654 г.: (Да бітвы пад Шапялевічамі): Пер. з пол. // Бел. гіст. агляд. 1999. Сш. 1—2.

**Шклоў**. Малюнак Ю.Пешкі. 1802.



**Шклоў** (цяпер горад, цэнтр Шклоўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав., на правым беразе Дняпра. Узнік на месцы вёсак Стары Шклоў і Хоцімка, перанесены на сучаснае месца ў канцы 16 ст. (паводле М.А.Ткачова, пасля 1580) або пасля пажару 1668. Згадваецца С.*Герберштэйнам* пад 1520. У час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* у 1535 спалены маскоўскім ваяводам Шуйскім. У 16—17 ст. існаваў *Шклоўскі замак*. Да 1524 належаў Гаштольдам, з сярэдзіны 16 ст. — Ходкевічам. З 2-й пал. 16 ст. Ш. — цэнтр Шклоўскага графства. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* двойчы спалены рас. войскамі ў 1563 і 1580. У сярэдзіне 16 ст. вядомы як гандлёвы цэнтр. У сярэдзіне 17 ст. перайшоў да Сяняўскіх, якія валодалі ім да 1-й трэці 18 ст. У 1650 — 8540 жыхароў, 1220 дамоў; у 1661 — 4375 жыхароў, 490 дамоў. Развіваўся пад абаронай магутных умацаванняў (гл. *Шклоўскія гарадскія ўмацаванні*). У пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* жыхары Ш. вытрымалі аблогу (гл. *Шклова абарона 1654*), але пазней здалі горад. Летам 1655 у Ш. знаходзілася стаўка цара Аляксея Міхайлавіча. У кастр. 1660 горад вызвалены, пасля чаго жыхары вытрымалі яшчэ адну аблогу рас. войск. У чэрв. 1666 захоплены рас. войскамі Я.К.Чаркаскага, шклоўская шляхта за «здраду» 1660 саслана ў Казань. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* вернуты Рэчы Паспалітай. У вер. 1708 у час *Паўночнай вайны 1700—21* разбураны шведскімі войскамі. У 1731 перайшоў да Чартарыйскіх. 10.4.1762 атрымаў магдэбургскае права і герб: у блакітным полі рука, якая трымае сярэбраны бязмен. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Topolska M.B. Dobra szkłowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1969; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991; Памяць: Гіст.-дак. хроніка Шклоўскага р-на. Мн., 1998; Ляўко В. Гісторыя Шклоўшчыны па археалагічных і пісьмовых крыніцах (да сярэдзіны XVIII ст.) // Бел. гіст. часопіс. 1996. № 2.

***Андрэй Лукашэвіч.***

**Шклоўскі замак.** Існаваў у *Шклове* ў 16—17 ст. Пабудаваны на востраве сярод штучнага става, утворанага на р. Шклоўка (Язона). Размяшчаўся на 3 ад *шклоўскіх гарадскіх умацаванняў* і быў звязаны з імі драўляным мостам на «ізбіцах», які падводзіў да замкавай брамы з пад'ёмным мостам на жалезных ланцугах. Па перыметры замкавага двара стаялі драўляныя ўмацаванні: ад ракі, з боку «поля» — гародні, з боку горада — вастракол. У падарожных запісах кн. Б.*Радзівіла* ў Ш.з. акрамя брамы згадваюцца яшчэ 2 вежы. Паводле інвентару 1661, тут у цэнтры замкавага двара мелася яшчэ адна высокая драўляная вежа, прыстасаваная для артабстрэлу наваколля. У цэйхгаузе замка захоўваліся 12 гармат, адна вялікая і 20 малых марцір, 183 гакаўніцы, 44 гранаты рознага калібру, ядры, запас пораху і інш. У гіст. крыніцах 18 ст. Ш.з. не ўпамінаецца.

***Міхась Ткачоў.***

**шклоўскія гарадскія ўмацаванні.** Існавалі ў *Шклове* з апошняй чвэрці 16 да канца 18 ст. Пасля пераносу ўмацаванага цэнтра з гарадзішча Стары



Шклоў на бераг Дняпра і спыненне жыцця на гарадзішчы далейшае развіццё Шклова адбывалася на ажыўленым водным гандлёвым шляху з Пд на Пн. Шклоў быў абаронены магутнымі ўмацаваннямі, пры будаўніцтве якіх удала выкарыстаны штучныя і натуральныя водныя рубяжы. З У горад быў надзейна прыкрыты Дняпром, які тут дасягае шырыні больш за 150 м; з Пд і З, дзе працякала р. Шклоўка, дзякуючы дамбе з плаціпай утварылася вял. возера, якое прыкрывала горад і *Шклоўскі замак*. Шклоў быў абкружаны магутным земляным валам, на якім стаяў «паркан з дрэва, пабудаваны ізбіцамі, з вежамі і брамамі». Дакументы 1647 называюць 4 брамы горада: Копыскую, Магілёўскую, Галоўчынскую, Астроўскую. З паўн. боку Шклоў не меў натуральных умацаванняў, таму акрамя землянога вала тут быў выкапаны роў. Пасля заняцця горада ў 1654 рас. войскам Ш.г.у. былі агледжаны, падноўлены і апісаны царскімі ваяводамі: «С приходной стороны, с севера выкопали новый ров и поставили надолбы, которые шли от Днепра до Заугольной башни». Агульная даўжыня гар. умацаванняў складала больш за 2240 м. У лініі фартыфікацыі называюцца і тайнікі. Паводле паўторнага апісання Ш.г.у. у 1657 ваяводам І.М.Талачанавым, горад быў абаронены 26 драўлянымі вежамі розных памераў і канструкцый. Уласна вежаў было 14, у т.л. 3 брамы. Назвы гар. брам адрозніваюцца ад назваў 1647 (акрамя Магілёўскай): брама Копыская называлася «Днепровскими проезжими воротами», Астроўская — «башня Тесная», Галоўчынская — «Песочной». Выкарыстоўваліся толькі 2 брамы: Дняпроўская (Копыская) і Пясочная (Галоўчынская). Праезд праз Магілёўскую браму наглуха засыпалі зямлёй. Найб. магутнасцю вызначаўся ўсх. бок абароны, які цягнуўся ад вусця Шклоўкі ўверх, уздоўж правага берага Дняпра. Тут размяшчалася 8 вял. вежаў і 8 малых («выводов»). Вежа «Угорская Рябковская» стаяла на мысе ў сутоках рэк, была 4-ярусная, з 3 мастамі, рубленая ў «две стены». Яна мела 4-вугольную аснову і з 2-га яруса пераходзіла ў 8-граннік, зроблены «в одну стену». Далей, уверх па Дняпры, прасла сцяны (117,3 м) падводзіла да «мярніцы» (відаць, «важніцы»). За ёй наступнае прасла (228,3 м) упіралася ў 8-вугольную вежу «села Дивного» з 2 мастамі. Даўжыня аднаго боку вежы складала каля 9,6 м, страха была 2-схільная. Ад гэтай вежы «звено города» (62,2 м) падыходзіла да Дняпроўскай (Копыскай) брамы, якая мела 4-схільную страху, 4 масты (5 ярусаў), знізу была 4-вугольная, з 2-га яруса — 8-вугольная. Даўжыня сцяны дасягала 13,7 м у аснове. На 2-м паверсе брамы стаяла палкавая гармата. Мяркуюць, што агульная вышыня брамы была да 25 м. За Дняпроўскай брамай, уверх па рацэ, прасла сцяны (каля 64 м) змыкалася з глухой 4-вугольнай вежай, якая мела даўжыню грані «мераю 3 сажня без полуаршина» (да 6 м). Вежа была «ниская, мосту ни одного нет», вынесена за горад, накрытая 4-схільнай страхой. На адлегласці каля 143 м ад яе над Дняпром размяшчалася 6-вугольная 4-ярусная «Падлазная» вежа. Яна мела «воротечка подлазные» для таемнага выхаду на бераг ракі. Даўжыня аднаго боку вежы была 6,4 м. Далей на ўчастку абароны (516,4 м) з прамежкамі 53,4—76,8—59,8—51,2 м размяшчаліся 8 невял. 4-вугольных вежаў («выводов»). Адна памерам 5 х 5 м, астатнія — пераважна 4,26 х 4,26 м. Усе яны, як правіла, былі 3-ярусныя, выступалі за лінію сцен, «за город же, к Днепру» і служылі для фланкіравання апошніх. На вежах стаялі гарматы. Два «вывода» былі здвоеныя і «с ряду рублены тако ж, яко и городовая стена». Вежы мелі падэшвенны бой, а з боку ракі іх засцерагаў «прислон стоячий». На адлегласці каля 147 м ад іх размяшчалася «Падлазная» вежа, праз 137,5 м за ёй — другая. Абедзве вежы былі 4-вугольныя (у аснове 6,4 х 6,4 м), 3-ярусныя, з 2 мастамі, мелі падлазныя вароты да Дняпра. На адной з іх стаяла «гроховница». «Звено города» (каля 128 м) заканчвала прыдняпроўскую лінію абароны і ў месцы павароту вала на З злучалася з вуглавой Таямнічай вежай (7,1 х 7,1 м у аснове). Па тайніку спускаліся па ваду да Дняпра. Зах. ўчастак Ш.г.у. (264,5 м) уключаў акрамя Таямнічай яшчэ 3 вежы — Цесную, Вывадную і Казлоўскую. Цесная вежа была аддалена ад Таямнічай на 7,1 м і, відаць, з-за такой блізкасці атрымала сваю назву. Гэта «цесната», відаць, была створана прадумана, каб агнём з вежы абараняць жыццёва важны ўчастак, які даваў выхад да вады. У 1654 ваход наглуха засыпалі зямлёй. Таямнічая вежа таксама дапамагала ў абароне Цеснай, фланкіруючы подступы да яе. Цесная вежа мела квадратную ў плане форму (7,1 х 7,1 м), а з 2-га паверха пераходзіла ў 8-граннік. На ёй стаялі 3 жалезныя пішчалі — «гроховницы». Вывадная вежа знаходзілася за 103 м ад Цеснай, уяўляла сабой 4-вугольнік у аснове (6,4 х 6,4 м), мела 3 ярусы бою, а таксама «бой земляной, спущенный ниже городовой стены». Вежу моцна высунулі за лінію сцен («и та башня выведена за город»), што, відаць, з'явілася падставай для яе назвы. У ёй стаялі пішчаль і «гроховница». Апошні ўчастак Ш.г.у. (108,7 м) падводзіў да вял. вуглавой Казлоўскай вежы, зрубленай знізу да верху ў выглядзе 3-яруснага 8-гранніка. Даўжыня аднаго яе боку складала 12,8 м. Вежа месцілася на бастыёне — гарматным «выводе» з 3 гарматамі. Ад яе ў бок Магілёўскай брамы ішоў тайнік з двайнымі дзвярыма. На верхнім мосце вежы знаходзіліся «пищаль и гроховница». Ад Казлоўскай вежы лінія Ш.г.у. паварочвала на Пд, цягнулася ўздоўж «Высокага поля» і вял. сажалкі на Шклоўцы. Адлегласць паміж Казлоўскай вежай і Магілёўскай (Крывой) брамай займала гар. сцяна (149 м). Магілёўская брама была 4-вугольная ў плане (10,6 х 10,6 м), 2-ярусная, з 2 брамамі. З узбраення тут мелася «пушечка полковая медная». За 11,7 м ад Магілёўскай брамы ў лініі гар. сцяны стаяў «двор ксенженский», за 85,3 м — вежа Вывадная. Дакументы паведамляюць пра канструкцыю абарончай сцяны на гэтым участку: «а рублен тот город от ксенженского двора не по городовому в одну стену, а в стене бывали избицы ксенженские» (відаць, гародні). Вывадная вежа была 4-вугольная ў плане (7,4 х 7,4 м), значна выступала за перыметр сцен («выведена за город к пруду»), мела «под собою земляной бой». Далей цягнуліся ўчастак сцяны (каля 94 м), «вывод» (9,5 х 9,5 м) з меднай гарадавой гарматай на ім і зноў участак сцяны (85 м), якая прымыкала да магутнай Пясочнай вежы-брамы. Гэта, відаць, была Галоўчынская брама. Вежа мела выгляд 6-гранніка з даўжынёй кожнага краю каля 12,8 м і з вышыні ніжняга моста пера-



ходзіла ў васьмярык. Усяго ў ёй былі 4 масты, што рабіла яе падобнай да Дняпроўскай брамы. Вакол Пясочнай вежы была зроблена кругавая баявая галерэя для гармат на ўзроўні 2-га яруса. Вежа мела 8-схільнае пакрыццё. Траплялі ў яе, відаць, па мосце цераз сажалку. За Пясочнай вежай участак сцяны (170,5 м) падыходзіў да замка. Замкавыя сцены былі аддзелены ад сцен горада ровам. Далей зноў цягнуліся гар. ўмацаванні — каля 64 м сцяны і «вывод» з наглуха закрытым тайнікам пад ім. «Вывод» уяўляў сабой участак сцяны ці бастыёна, які размяшчаўся паблізу Угорскай (Рабкоўскай) вежы і, відаць, блізка да вады. Ён быў зроблены «по-городовому» (у 2 сцяны) і злучаўся з вежай «у мельницы по конец пруда». Акрамя праезных вежаў, а таксама глухіх і невял. вежаў — «выводов» Ш.г.ў. мелі і «выводы пушечные» — бастыёны, якія прыкрывалі вял. вежы Таямнічую, Казлоўскую і Угорскую каля іх падножжа. Паводле вопісу 1657, на сценах горада стаялі «кобылины на вертлюгах» (цяжкія мушкеты, што стралялі буйным шротам і сечаным жалезам), 20 палкавых гармат і 20 грохаўніц, 93 пішчалі зацінныя, мушкеты і ручніцы з запасам ядраў, куль, волава і свінцу. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Ш.г.ў. моцна пацярпелі. Пазней былі адноўлены і паводле дакументаў 18 ст. ўключалі вал, 5 драўляных вежаў і 7 рэдутаў. Агульная даўжыня гар. фартыфікацыйнай лініі складала 2750 м. Рэшткі Ш.г.у. існавалі да канца 18 ст., часткова захаваліся і мелі значэнне яшчэ ў пач. 20 ст. У наш час сляды Ш.г.у. у выглядзе разбураных бастыёнаў бачны ў прыдняпроўскай частцы горада.

*Міхась Ткачоў.*

**школьны тэатр**, тэатр пры духоўных навучальных установах (акадэміях, брацкіх школах, калегіумах). Узнік у краінах Зах. Еўропы як сродак вывучэння лацінскай мовы і выхавання, выпрацоўкі адпаведных эстэтычных густаў і дабрачыннасцей, меў пазнавальна-дыдактычны і прапагандысцка-выхаваўчыя мэты. У 15—18 ст. быў пашыраны ў Польшчы. У ВКЛ Ш.т. існаваў у 16—18 ст. Яго ўзнікненне і развіццё звязаны з дзейнасцю *езуітаў*, якія адводзілі важнае месца адукацыі, асвеце і выхаванню падрастаючага пакалення. Езуіцкія Ш.т. існавалі ў многіх гарадах і мястэчках: Полацку (1585—1819), Пінску (1632—1764), Гародні (1650—1754), Віцебску (1671—1766), Навагародку (1685—1761), Менску (1689—1727), Берасці (1696—1760), Нясвіжы (1696—1758), Оршы (у канцы 17 ст.), Слуцку (1715—36), Жодзішках (1716—30), Магілёве (1722—32), Мсціславе (вядомы ў 1729), Слоніме (1744—69), Бабруйску (1760—68). У рэчышчы Ш.т. праходзіла дзейнасць *Сімяона Полацкага* ў правасл. брацкай школе пры Полацкім Богаяўленскім манастыры ў 1656—64, вучні якой выконвалі спецыяльна напісаныя ім дэкламацыі. Наладжвалі паказы Ш.т. і пратэстанты ў Слуцку (зафіксаваны ў 1686). У 2-й пал. 18 ст. дзейнічалі Ш.т. *піяраў* у Віцебску (вядомы паказы ў 1765) і Лідзе (паказы ў 1771, 1772). З сярэдзіны 18 ст. Ш.т. арганізоўвалі уніяцкія і правасл. навучальныя ўстановы. Спектакль Ш.т. ўяўляў сабой пышнае відовішча з музыкай, песнямі, танцамі (паміж актамі выконваліся інтэрмедыі, хары, балеты). Пераважалі пастаноўкі на лацінскай мове. Сярод іх драмы: перадвелікоднага тыдня (пра пакуты Хрыста і яго паслядоўнікаў), масленічныя (выконваліся паміж калядамі і вял. постам, у іх асуджалася разгульнае грэшнае жыццё, злоўжыванне віном), прымеркаваныя да канца навучальнага года (найб. свецкія па характары, часцей прысвячаліся мясц. магнатам-мецэнатам). Для сюжэтаў выкарыстоўваліся Біблія, агіяграфічныя творы, антычная міфалогія, гісторыя айчынная, краін Усходу і Зах. Еўропы. У рэпертуары былі трагедыі, камедыі, трагікамедыі, літургічныя драмы, інсцэніроўкі дыспутаў і судовых пасяджэнняў, дыялогі. У 18 ст. з пашырэннем асветніцкіх ідэй паказы адбываліся пераважна на польскай мове, тэатр набываў больш свецкі характар, павялічылася цікавасць да гіст. тэматыкі (асабліва антычнай). Паказальныя ў гэтым плане базыльянскія Ш.т. ў Жыровічах (ставіліся драмы на лацінскай і польскай мовах з бел. інтэрмедыямі, вядомы паказы ў 1752) і Навагародку (1760-я г., у 1761 пастаўлена перапрацоўка камедыі Мальера «Прытворнахворы»). Тыпова асветніцкім быў тэатр пры школе *Забельскага кляштара дамініканцаў* у 1787—91: польскія трагедыі на сюжэты з антычнай гісторыі, камедыі, у якіх побач з польскай ужывалася бел. мова («Камедыя» К.Марашэўскага, «Доктар па прымусу» М.Цяцерскага, «Пышнагольскі» І.Юрэвіча), аперэта «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас», дыялогі «Пчолы», «Пра ашчаслўленне чалавека» і інш. Ранейшы рэпертуар тэатра быў разлічаны на публіку са шляхты, у сярэдзіне 18 ст. ён больш наблізіўся да шырокага гледача.

*Літ.*: Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 2. Пг., 1921; Школьны тэатр // Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1.

*Якуб Усікаў.*

**шкоты**, шоты, у беларускіх і польскіх крыніцах 16—17 ст. назва шатландскіх эмігрантаў, што аселі ў Рэчы Паспалітай. Ужо ў 1503 Пётркаўскі сойм разглядаў праект пасялення шатландскіх каланістаў у замках на Дняпры, спустошаных у час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. Пазней шатландцы паяўляліся ў ВКЛ як наёмнікі ў войску і як мірныя дробныя гандляры. З 1563 соймавыя канстытуцыі згадваюць іх як сур'ёзных канкурэнтаў мясц. купецтва і абкладваюць іх дадатковымі падаткамі. Ш. хутка амаль манапалізавалі гандаль цэлымі катэгорыямі тавараў, вядомымі як «речи шкоцкие»: ручнікі, рукавіцы, пацеркі, бялілы, венікі, нажы, грабяні, ніткі, іголкі, напарсткі, панчохі і інш. Пасяленне Ш. у Рэчы Паспалітай набыло такія размах і вядомасць, што англійскі драматург Дж.Уэбстэр у п'есе «Белы д'ябал» (1610) згадваў пра «сорак тысяч шатландскіх гандляроў у Польшчы». У 1583 у час паломніцтва ў Палесціну М.К.*Радзівіл* Сіротка пісаў пра ўбачаных ім у Сірыі вулічных гандляроў-друзаў, што яны, «як нашы шкоты, у карабах розныя дробныя рэчы для продажу носяць па вуліцах». Адным з найб. вядомых прафесараў філасофіі Віленскай акадэміі ў 1570—75 быў езуіт з Шатландыі Джон Хэй. Медны шатландскі пені з 1640-х г. стаў першым прадстаўніком меднага манетнага абарачэння на тэр. Беларусі. Пераважна кальвіністы па веравызнанні, Ш. найахвотней сяліліся ў гарадах і мястэчках, што належалі магнатам-кальвіністам. Асабліва вял. калоніі Ш. у 17 ст. існавалі ў рэзідэнцыях кальвінісцкай галіны Радзівілаў — у Слуцку і Кейданах. Паводле ўспамінаў



«шкота» П.Гордана, Януш Радзівіл і яго сын Багуслаў «мелі кампанію цалкам ці пераважна з шатландцаў». Некаторыя з іх пры фундатарстве Радзівілаў займаліся навукай і мастацтвам, напрыклад, Дж.Джонстан у 1665 выдаў у Амстэрдаме кнігу «Thaumatographia naturalis», прысвечаную Я. і Б. Радзівілам. У войнах Рэчы Паспалітай з Расіяй Ш. ўдзельнічалі як наёмнікі з абодвух бакоў, часам па некалькі разоў пераходзячы да праціўніка. Вял. колькасць Ш. з войска шведскага генерала Горна трапіла ў палон да рэферэндара ВКЛ А.Гасеўскага пры заняцці ім крэпасці Белая на Смаленшчыне ў 1610. Пры аблозе Смаленска ў 1634 пад камандай апошняга знаходзілася шатландская драгунская харугва (200 чал.). Паступова Ш. асіміляваліся мясц. насельніцтвам, прымалі бел. імёны. Так, у рэестры пінскіх купцоў 1620-х г. адзначаны 4 Ш.: «Томило Олешкович, Петр Шимкович, Олешко Охремович, Луцья Литвинович».

*Літ.*: Steuart A.F. Scottish Influence in Russian History. Glasgow, 1913; Яго ж. Papers Relating to the Scots in Poland, 1576—1793. Edinburgh, 1915; Zins H. Polska w oczach Anglików XIV—XVI w. Warszawa, 1974; Рябцевич В.Н. Нумизматика Беларуси. Мн., 1995.

***Алесь Белы.***

**шляхецкія вольнасці**, комплекс правоў і прывілеяў шляхты Рэчы Паспалітай 16—18 ст., на падставе якіх сфарміравалася ідэалагічная дактрына «залатой вольнасці» — культу павагі свабод кожнай асобы шляхецкага стану. Кансалідаванай шляхце ўдалося заняць дамінуючыя пазіцыі ў дзяржаве і аслабіць уладу караля. Прывілеі, атрыманыя ёю ў 14—16 ст. (ад Казіміра III Вялікага да Стафана Баторыя), сталі асновай Ш.в., якія ўключалі роўнасць усіх грамадзян шляхецкага стану перад законам (aegualitas), права на свабодную элекцыю караля, права кожнага шляхціца на свабоду голасу (libera vox) і права на пратэст (iusvetandi), а таксама недатыкальнасць асобы шляхціца і яго маёнтка. Прывілей 1588 не дазваляў праводзіць рэвізіі шляхецкіх дамоў нават тады, калі было вядома, што там хаваецца выволанец (гл. ў арт. *Баніцыя*). Тэарэтычна шляхціц не мог беспакарана толькі забіць, падпаліць, заняволіць іншага шляхціца, згвалціць кабету і рабаваць — на ўсё астатняе ён меў права. Правы і прывілеі шляхты ВКЛ юрыдычна афармлены Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588. Ш.в. маглі абмяжоўвацца толькі пастановамі соймаў і соймікаў, кароль без згоды *Пасольскай Ізбы* не мог абкладаць падаткамі, збіраць *паспалітае рушэнне*, абвяшчаць вайну ці выдаваць уставы, якія б тычыліся шляхты. У 17 ст. абсалютызацыя Ш.в. выклікала ўзрастанне паліт. анархіі ў Рэчы Паспалітай. Яны трактаваліся як аснова ўнутрыдзярж. узаемаадносін, у першую чаргу — паміж шляхтаю і каралём. Кожнае «парушэнне» вольнасцей успрымалася як імкненне да абсалютызму, кожная спроба правесці рэформы — як замах на Ш.в. Выкарыстанне права *ліберум вета* прывяло да таго, што з 1652 па 1763 з 73 адкрытых соймаў 37 было сарвана. Дзярж. ўлада паралізоўвалася, агульнадзярж. задачы прыносіліся ў ахвяру інтарэсам магнацка-шляхецкіх груповак. У 18 ст. сярод інтэлектуальных колаў Рэчы Паспалітай уздымалася пытанне аб неабходнасці пашырыць правы асобы і грамадзянскія свабоды на ўсіх жыхароў, аднак паліт. сістэма заставалася нязменнай да канца існавання Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Olszewski H. Sejm Rzeczypospolitej epoki oligarchii, 1652—1763. Poznań, 1966; Maciszewski J. Szlachta polska i jej państwo. 2 wyd. Warszawa, 1986; Tazbir J. Myśl polska w nowożytnej kulturze europejskiej. Warszawa, 1986.

***Генадзь Сагановіч.***

**Шматаў** Віктар Фёдаравіч (н. 9.5.1936, г.п. Камарын Брагінскага р-на), беларускі мастацтвазнавец, мастак. Д-р мастацтвазнаўства (1990). Скончыў Бел. тэатральна-мастацкі ін-т (1962). З 1966 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі (у 1991—2003 заг. аддзела і Музея стараж.-бел. культуры). Даследуе кніжную і станковую графіку Беларусі, мастацкую спадчыну Ф.Скарыны. Адзін з аўтараў «Гісторыі мастацтва народаў СССР» (т. 9, Масква, 1982), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—5, 1987—92), складальнік зборніка «Выяўленчае мастацтва Беларусі» (1981). Працуе ў станковым жывапісе, аўтар пейзажаў, шаржаў і карыкатур, сатырычных плакатаў, экслібрысаў.

*Тв.*: Беларуская сатырычная графіка (1945—1970 гг.). Мн., 1971; Беларуская графіка 1917—1941 гг. Мн., 1975; Беларускі кніжны знак. Мн., 1975 (з А.Тычынам); Беларуская станковая графіка. Мн., 1978; Сучасная беларуская графіка, 1945—1977. Мн., 1979; Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; Искусство книги Франциска Скорины. М., 1990; Мастацтва беларускіх старадрукаў XVI—XVIII стст. Мн., 2000.

**Шмігельскітэ-Стукене** (Šmigelskytė-Stukienė) Рамуне (н. 7.12.1970, д. Ужледжяй Каўнаскага р-на, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (2001). Скончыла Вільнюскі педагагічны ун-т (1994). З 1996 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы. Даследуе паліт. і сац. гісторыю ВКЛ 18 ст. Аўтар кн. «Утварэнне і дзейнасць канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага ў 1792—1793 гг.» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės konfederacijos susidarymas ir veikla 1792—1793 metais», Вільнюс, 2003).

*Тв.*: История 18 века // Книга тысячелетия. Знакомьтесь: Литва, Государство. Kaunas, 1999; Livonijos vyskupo Juozapo Kazimiero Kosakovskio LDK vizija antrojo valstybės padalijimo akivaizdoje // Lietuvos istorijos metraštis, 2001 metai. Vilnius, 2002; Politinis realizmas ir iliuzijos: LDK bajorijos pozicijos // Darbai ir Dienos. Kaunas, 2004. T. 37; Tarp tradicijų ir novacijų: Upytės pavieto bajorija XVIII a. pabaigoje // Iš Panevėžio praeities: Upytės žemei 750 metų. Panevėžys, 2004.

**шнур**, землямерная прылада і адзінка даўжыні ў Рэчы Паспалітай. У 16 ст. польскі (каронны) Ш. роўны 45 локцям або 450 звычайным ступням (43,20 м). У залежнасці ад матэрыялу прылад вымярэння (жэрдка, вяроўка, лыка), велічыні ступні і локця меліся Ш. ў 16 сажняў (34,14 м), 25 сажняў (53,34 м), 30 сажняў (64 м). З часу правядзення *валочнай памеры* ў ВКЛ выкарыстоўвалі Ш. як мерніцкі ланцуг, роўны 7,5 купецкага локця або 187,5 цалі. Літоўскі Ш. як мера складаўся з 10 прутоў або 75 локцяў ці 20 рыжскіх ступняў і адпавядаў 22,84 рускім сажням (48,73 м). З землямернай практыкі Ш. з канца 18 ст. выцясняўся рус. 10-сажневым жалезным ланцугом (21,33 м).

*Літ.*: Петрушевский Ф.З. Польская метрология, или Описанне польских мер, весов и монет. 2 изд. СПб., 1834; Горбачевский Н.И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874; Похилевич Д.Л. Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украи-

не в XVI—XVII вв. // Материалы по истории земледелия СССР. М., 1952. Сб. 1; Pawlikowska Z. Z historii polskiej terminologii geodezyjnej // Przegląd Geodezyjny. 1967. Z. 5.

*Яўген Анішчанка.*

**Шонфлісіуш** (Schönflissiusz, Schoenflisiusz) Андрэй (1590, г. Торунь—1654), дзеяч лютэранскай царквы ВКЛ, гімнограф. Вучыўся ў Торунскай гімназіі. З 1622 пастар, служыў у г. Шчуплінен, Старгард, з 1626 польскамоўны прапаведнік Віленскага збора, з 1633 (ці 1635) сталы пастар у Вільні. Аўтар шматлікіх казанняў: пахавальных (у гонар Пятра Нонхарда, Андрэя Агрыпы і інш.), трыумфальных (на абранне і каранацыю Уладзіслава IV, перамогу над Шэіным пад Смаленскам) і інш. зместу, якія друкаваліся ў Любчы, Вільні, Еўі, Караляўцы, Торуні. Найб. вядомы твор Ш. — «Хрысціянская пасціла» («Postylli Chrześciańskiey...Część pierwsza», Вільня, 1652) — зборнік нядзельных казанняў, які налічвае больш за 1000 старонак (2-я частка засталася ў рукапісе). Складальнік зборніка гімнаў і малітваў для лютэранскай царквы ВКЛ «Wirydarz duszny» (Любча, 1648; уключае таксама польскі пераклад «Малога катэхізіса» М.Лютэра). Шмат гімнаў Ш. змяшчалася ў пазнейшых лютэранскіх канцыяналах. Перад смерцю ахвяраваў багатую б-ку Віленскаму збору.

*Мікола Пачкаеў.*

**шосавае**, ш о с (ад ням. Schoss падатак), рэгулярны прамы падатак з продажу с.-г. прадукцыі і рамесных вырабаў у Рэчы Паспалітай. У Польшчы з 1456 дзярж. пабор з зямлі (лана), гар. пляцоў, гасцінцаў, млыноў, кірмашоў. У ВКЛ вядома з 16 ст., збіраліся дзярж. скарбам пры здачы на водкуп мыта, корчмаў і шынкоў. Збіралі дазорцы (экзактары) скарбу або арандатары з гандлю садавінай, косамі, воўнай, брусам, з корабаў іншых тавараў па спец. інструкцыях і таксе з кожнага купца. Існавала да 1795.

*Літ.*: Drozdowski M. Podstawy finansowe działalności państwowej w Polsce, 1764—1793. Warszawa; Poznań, 1975.

*Яўген Анішчанка.*

**шоты**, гл. *Шкоты.*

**шпег**, ш п і г (ад сярэдневерхнеям. spehaer дазорца, разведчык), 1) у ВКЛ у 16—18 ст. асоба, якая вяла судовае следства, расшуквала злачынцаў,


MEMORIAL
SMIERTELNOSCI
ná pogrzebie
niegdy Szláchetnego Páná
SIMONA EN=
GELBRECHTA
KVPCA WILENSKIEGO
w Krolewcu w tym Roku 1635. Iunij
17. w Pánu spokoynie zmárłego.
vltimá Iunij
Przed oczy słuchaczom wystáwiony
PRZEZ
X. Andrzeia Schonflissiusa Kaznodzieię
Confess: Aug.
Iob. 14. 5.
[illegible]
Roku Pańskiego 1635.

А.**Шонфлісіуш**. Мемарыял смерці на пахаванні Сімона Энгельбрэхта. Еўе. 1635. Тытульны ліст.

падазроных асоб, збірала інфармацыю пра злачынствы. 2) У ВКЛ назва разведчыка, шпіён. Трымаліся і аплачваліся вайсковымі ўладамі, пераважна на граніцы. Дзейнічалі на ўласнай тэрыторыі (як контрразведка), на тэр. іншых дзяржаў. Некаторых Ш. вербавалі з жыхароў памежных краін. Ш. называлі таксама членаў вайсковых падраздзяленняў для захопу «языка».

*Літ.*: Bardach J. Ryskun i szpieg: Z dziejów służby wywiadowczej w Wielkim Księstwie Litewskim XVI stulecia // Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970.

**шпіталь** (ад лац. hospitalis), у ВКЛ у 15—18 ст. установа для апекі над састарэлымі, бяздомнымі, беднымі і хворымі. Ш. засноўвалі правасл., уніяцкія і каталіцкія *брацтвы*, пратэстанцкія абшчыны, кагалы, цэрквы, манастыры, гар. магістраты, рамесныя цэхі, феадалы. З каталіцкіх манаскіх ордэнаў на ўтрыманні Ш. спецыялізаваліся *баніфратры* (браты міласэрнасці), *рахіты*, іааніты (гл. *Мальтыйскі ордэн*), *шарыткі* (сёстры міласэрнасці). У Ш. людзі атрымлівалі прытулак, харчаванне, лячэнне. Для забеспячэння дзейнасці Ш. ім перадаваліся землі, вёскі, пякарні; прыватнаўласніцкія сяляне павінны былі пастаўляць Ш. прадукты, вопратку, абутак, дровы, рамантаваць Ш., апрацоўваць іх агароды. Паводле закона 1655 шпітальныя пляцы вызваляліся ад падаткаў. У невял. Ш. жыло па 3—8 чал., у вялікіх — больш за 20. Першыя Ш. на Беларусі вядомы ў Берасці (1495, 1503), Зэльве (1508), Менску (1513), Мазыры (1516) і інш. У вял. гарадах іх было 3—8, у Магілёве ў 1702 было 13 Ш. Паводле няпоўных звестак за 1780-я г., на Беларусі было 370 Ш., у якіх месцілася 2918 чал. У 1768 устаноўлены нагляд над Ш. з боку *камісій добрага парадку.* У 1775—80 існавала Шпітальная камісія ВКЛ на чале з біскупам віленскім І.Я.*Масальскім*. У 1791—93 за Ш. наглядала *Камісія паліцыі абодвух народаў*, пасля — *Камісія паліцыі Вялікага княства Літоўскага*.

*Літ.*: Крючок Г.Р. Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976. С. 58—62; Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа: Из истории бел. медицины. Мн., 1987. С. 56—61.

*Валерый Пазднякоў.*

**«Шранява»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 120 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Квілецкія, Ліпскія, Любамірскія, Рагозы, Скіндары, Стадніцкія. У чырвоным



Герб **«Шранява»**.

полі сярэбраная хвалістая стужка, на якой сярэбраны крыж; клейнод — над прылбіцай з каронай галава льва паміж 2 турынымі рагамі са званочкамі. Вядомы з канца 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413.*

**Шрэтэр** (Schroetter, Szretter, Schretter) Іаган (?—да 20.2.1685), жывапісец нямецкага паходжання. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі, Польшчы і Літвы. Жыў у Гданьску, у 1640-я—пач. 1650-х г. у Гародні і Вільні, з 1655 у Караляўцы, з 1660-х г.


І.**Шрэтэр**. Партрэт Кацярыны і Марыі Радзівіл. 1646.

зноў у Вільні. Быў чл. брацтва св. Марціна. У 1646 стварыў для Гарадзенскага касцёла брыгітак алтарныя абразы «Дабравешчанне», «Святая Брыгіта», «Святая Ганна», «Бязгрэшнае зачацце Панны Марыі» і інш. У 1646 у Вільні напісаў партрэт жонак Януша Радзівіла — Кацярыны Патоцкай і Марыі Лупу. Яму прыпісваюць партрэт Хрысціны Яўхіміі Радзівіл (да 1657). Большасць яго работ не захавалася, у т.л. для брацтва св. Марціна, алтарны абраз «Казьма і Дзям'ян» для касцёла св. Яна ў Вільні.

*Літ.*: Jodkowski J. Nieznane prace J.Szrettera i F.Lekszyckiego // Biuletyn Historii Sztuki. 1948. Z. 1; Kamieniecka E. Portrety Jana Szrettera // Rocznik Muzeum Narodowego w Warszawie. Warszawa, 1973. T. 17; Paknys M. Vilniaus tapytojų padėtis XVII a. II puseje // Menotyra. 1999. № 4; Kałamajska-Saeed M. Kościół brygitek w Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

***Айстэ Лугаваене.***

**Шуйскія**, княжацкі род у Расіі і ВКЛ. Паходзілі ад 3-га сына Аляксандра Неўскага вял. князя ўладзімірскага Андрэя. Адыгрывалі значную ролю ў гісторыі Маскоўскай дзяржавы 16—пач. 17 ст. Васіль Іванавіч Ш. (1552—12.9.1612) у 1606—10 быў рускім царом. У Расіі род Ш. згас у 1-й пал. 17 ст., яго бел. лінія праіснавала да 19 ст.

Найб. вядомыя з рас. лініі:

Васіль Васілевіч (мянушка Нямы; ?—1539), сын Васіля Фёдаравіча, рас. военачальнік. З 1501 актыўна ўдзельнічаў у войнах супраць ВКЛ, на чале маскоўскіх атрадаў зрабіў паходы ў 1504, 1507, 1512 (на Себеж), 1513 (на Смаленск, Полацк, Оршу), 1518 (на Вільню), 1519, 1520, 1535 (на Мсціслаў). У 1508 ваявода ў Вязьме, у 1514 намеснік у Смаленску.

Пётр Гурый Іванавіч (?—26.1.1564), сын Івана Васілевіча, рас. военачальнік. Удзельнік *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У 1563 ваявода ў Оршы. У 1564 накіраваўся з войскам на Менск і Навагародак, але ў час паходу быў заспеты войскам ВКЛ на р. Ула і разбіты (гл. *Бітва на Уле 1564*). Загінуў у гэтым баі, пахаваны ў Вільні.

Найб. вядомыя з бел. лініі:

Іван Дзмітрыевіч (мянушка Губка; ?—каля 1560), сын Дзмітрыя Васілевіча. У 1534 разам з С.Ф.Бельскім і І.В.Ляцкім перабег у ВКЛ, дзе ў 1536 атрымаў маёнтак Церабунь у Берасцейскім пав.

Ян (?—3.2.1610), унук Івана Дзмітрыевіча. Падкаморы берасцейскі з 1596. Меў сыноў Ежы, Крыштофа (?—пасля 1632), Канстанціна (?—1634), Андрэя (?—1640), Яна (?—1643), Аляксандра (?—да 1658), ад якіх пайшлі 6 галін роду Ш. у ВКЛ. Іх прадстаўнікі займалі пасады ў асноўным у Берасцейскім ваяв.

Ежы Канстанцін (?—1694), сын Канстанціна. Удзельнічаў у вайне з укр. казакамі, у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Берасцейскі чашнік з 1676, суддзя гродскі з 1686. Выбіраўся падлом на элекцыйны сойм 1669, дэпутатам Трыбунала ВКЛ у 1691.

Канстанцін Ян (?—1695), сын Аляксандра. Берасцейскі пісар земскі ў 1663—79 і харужы ў 1679—90, вял. пісар ВКЛ з 1690; староста ялоўскі і загальскі. Шмат разоў выбіраўся паслом на соймы.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Абрамович Г.В. Князья Шуйские и Российский трон. Л., 1991.

***Міхаіл Красноў.***

**Шульц** (Schulz) Фрыдрых (1762, г. Магдэбург—1798), нямецкі пісьменнік, падарожнік. Скончыў ун-т у Гале, дзе выкладаў мовы, пасля працаваў у Дрэздэне, Вене, Берліне, Веймары, Парыжы. З 1790 праф. акадэміі ў Мітаве (Курляндыя). У 1791 абраны паслом ад мяшчанскага саслоўя на Чатырохгадовы сойм 1788—92 Рэчы Паспалітай. Паездку на сойм апісаў у кнізе «Падарожжа ліфляндца з Рыгі да Варшавы» (1797), дзе даў звесткі пра тагачаснае паліт. жыццё, нораві Рэчы Паспалітай, апісаў жыллё і вопратку бел. сялян, забудову Гародні і інш. У 1793—94 падарожнічаў па Італіі. Аўтар раманаў, апавяданняў, дарожных нататак, гісторыі Французскай рэвалюцыі.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

**Шутэ** (Skytte) Бенгт (30.9.1614, Стакгольм—23.7.1683), дзяржаўны дзеяч Швецыі. Скончыў ун-ты Упсалы і Дорпата. З 19 гадоў на дзярж. службе. З 1648 канцлер Дорпацкага ун-та, пасля кіраўнік Дзярж. рады Швецыі. Імкнуўся абмежаваць паліт. ўплыў магнатаў і пашырыць правы шляхты. Цікавіўся ўсх.-еўрапейскімі пратэстантамі і магчымасцю саюза з імі. Меў кантакты з апазіцыяй у ВКЛ. У канцы 1648 раіў генерал-губернатару Фінляндыі П.Бразе «кінуць позірк на Рэч Паспалітую, дзе, як чакаецца, хутка тая ці іншая партыя будзе шукаць нашай дапамогі, напрыклад, ужо зараз лепшыя людзі Літвы сакрэтна шукаюць нашага запрашэння, каб аддзяліць Літву ад Польшчы і злучыць яе з Швецыяй». У 1651 па загаду прынца Карла (будучага караля Карла X) здзейсніў падарожжа ў Трансільванію для заключэння саюза паміж гэтымі 2 пратэстанцкімі краінамі. Пры двары Ракочы сустракаўся з пасламі *Я.Радзівіла*. З пачаткам *Паўночнай вайны 1655—60* «легатам караля Швецыі ў Літве». Разам з М.Г.*Дэлягардзі* кіраваў перагаворамі са шляхтай ВКЛ у Кейданах. Быў працiўнікам ідэі перадачы ўлады ў ВКЛ магнатам. Насуперак планам Радзівілаў па ініцыятыве Ш. 23.10.1655 створаны надзвычайны шляхецкі ўрад ВКЛ — *Рада Шведскай Літвы*, якую ён узначаліў. Быў кіраўніком шведскай цывільнай адміністрацыі ў ВКЛ у 1655—56 з рэзідэнцыяй у Мітаве. Прыхільнік паліт. ўрэгулявання антышведскага паўстання ў Жамойці ў



крас.—маі 1655. З абвяшчэннем Расіяй вайны Швецыі 17.5.1656 выступіў за мір з Масквой. Прапанаваў прызнаць за царом Аляксеем Міхайлавічам тытул вял. князя літоўскага і саступіць яму Браслаўскі, Вількамірскі і Ковенскі паветы. Пры гэтым Швецыя мусіла захаваць за сабой Жамойць па прычыне яе важнага геапаліт. становішча, а таксама Упіцкі пав. З 1664 Ш. ў апазіцыі. Шмат падарожнічаў па краінах Еўропы, падтрымліваў пратэстантаў.

*Літ.*: Carlsson A.B. Sverige och den östeuropeiska krisen 1656: Ett betankande af Bengt Skytte om den svenska politiken // Historisk tidskrift. 1912. S. 108—125; Runeby N. Bengt Skytte, Comenius och abdikationskrisen 1561 // Scandia: Tidskrift för historisk forskning. 1963. B. 29, h. 2; Šapoka A. 1655 metu Kėdainių sutartis arba švedai Lietuvoje 1655—1656 metais. Vilnius, 1990.

***Андрэй Катлярчук.***

**Шчавінская** Ларыса Леанідаўна (н. 1.6.1957, г. Гомель), літаратуразнавец, краязнавец, гісторык культуры. Канд. філалагічных навук (1997). Скончыла Мінскі радыётэхнічны ін-т (1979). З 1993 у Ін-це славяназнаўства Рас. АН. Даследуе гісторыю, культуру і л-ру Беларусі, гісторыю бел. культуры ў Польшчы ў 15—20 ст.

*Тв.*: Завещано Отечеству: (Коллекции графа Н.П.Румянцева и их судьба). М., 1994 (з Ю.А.Лабынцавым); Православная церковь на Белостотчине в работах протоиерея Григория Сосны. Мн., 1994 (з ім жа); Литературная культура белорусов Подляшья XV—XIX вв.: Книжные собрания Супрасльского Благовещенского монастыря. Мн., 1998; На благое просвещение. Мн., 1999 (з Ю.А.Лабынцавым); W mieście zwanym Zabłudowem. Białystok, 1995 (з ім жа); Литература белорусов Польши (XV—XIX вв.). Мн., 2003 (з ім жа); Западнобелорусское письменное наследие XVII—XX вв.: (Экспедиционные исследования 2000—2002 г.). Мн., 2004 (з ім жа).

**Шчакаціхін** Мікалай Мікалаевіч [1(13).10.1896, Масква—5.4.1940], беларускі мастацтвазнавец, гісторык і тэарэтык мастацтва, педагог; адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага мастацтвазнаўства. Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1914—18). З 1918 інструктар аддзела Наркамасветы па справах музеяў і аховы помнікаў мастацтва і даўніны ў Маскве, з 1919 лектар пры палітаддзеле Арлоўскай ваеннай акругі. З 1920 у Харкаве, навук. супрацоўнік музея, адначасова загадчык перакладчыцкай калегіі і член рэпертуарнай камісіі пры навук.-тэарэтычным аддзяленні Наркамасветы Украіны, чл. праўлення Усеўкраінскага Саюза пісьменнікаў. З 1921 у Мінску. З 1922 асістэнт кафедры гісторыі мастацтваў БДУ, з 1923 распрацоўваў і выкладаў у ім курс па гісторыі бел. мастацтва (з 1924 дацэнт). Адначасова з 1925 у Інбелкульце: навук. сакратар Секцыі бел. мастацтва, з 1926 член-супрацоўнік камісіі па гісторыі мастацтваў і стыль-рэдактар выдавецкага аддзела, з 1927 навук. сакратар па вывучэнні мастацтва Беларусі, старшыня камісіі гісторыі мастацтваў (у 1929—30 у Бел. АН). 18.7.1930 арыштаваны. Паводле пастановы калегіі АДПУ ад 10.4.1931 сасланы ў г. Белябей Башкірскай АССР. З 1932 на гаспадарчай і выкладчыцкай рабоце. Рэабілітаваны 30.1.1956. Даследаваў бел. архітэктуру 11—19 ст. (культавае дойлідства і абарончыя збудаванні), выяўленчае мастацтва, у т.л. манументальны жывапіс полацкіх храмаў, іканапіс 17—18 ст., стараж. бел. гравюры, мастацтва кніг Ф.Скарыны. Выпрацаваў навук. канцэпцыю гісторыі бел. мастацтва, асн. кірункі яго развіцця і перыядызацыі. Увёў ва ўжытак паняцці «беларускае Адраджэнне», «беларускае барока» і «беларуская готыка». Адзін з арганізатараў 1-й Усебел. мастацкай выстаўкі (1926) і стваральнікаў музейных збораў на Беларусі. У канцы 1920-х г. даследаваў вадзяныя знакі Метрыкі ВКЛ, манеты ВКЛ 16—17 ст. Аўтар артыкула «Беларускае мастацтва» для першага выдання Вял. Сав. Энцыклапедыі (т. 5, 1927). Рукапісы 1930-х г. «Тапаграфія кладаў з літоўскімі макетамі на тэрыторыі старажытнай Літоўскай дзяржавы», «Некаторыя варыянты літоўскіх манет», «Нарыс гісторыі літоўскай манеты XVI—XVII ст.» захоўваюцца ў Эрмітажы.

*Тв.*: Калі радзіўся Францішак Скарына // Полымя. 1925. № 5; Васіль Вашчанка — магілеўскі гравёр канца XVII—пач. XVIII сталецьця // Навук. зб. Ін-ту Беларускае Культуры. Мн., 1925; Матэрыялы да гісторыі беларускага малярства XVIII сталецьця // Віцебшчына. Віцебск, 1925—28. Т. 1—2; Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны // 400-лецьце беларускага друку. Мн., 1926; Замак у Рагачэве // Наш край. 1926. № 10—11; Да пытаньня аб хроналёгіі «Малой Падарожнай Кніжыцы» Скарыны // Зап. Аддз. гуманіт. навук. Мн., 1928. Кн. 3. Працы камісіі гісторыі. Т. 2; Помнікі старадаўняе архітэктуры XVII—XVIII сталецьцяў у Менску // Зап. Аддз. гуманіт. навук. Мн., 1928. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1; Рыгор Мядзьвецкі — невядомы беларускі малер канца XVIII сталецьця // Там жа; Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928 (2 выд. 1993).

*Літ.*: Ліс А. Мікола Шчакаціхін: Хараство непазнанай зямлі. Мн., 1968; Яго ж. Мікола Шчакаціхін // Ліс А. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994; Матэрыялы да 100-годдзя з дня нараджэння Міколы Шчакаціхіна, 1896—1940. Мн., 1996; Чэбан І. Мікалай Шчакаціхін і стварэнне нацыянальнага беларускага музея // Бел. гіст. часопіс. 1996. № 4; Яе ж. Уплыў даследаванняў М.Шчакаціхіна на развіццё сучаснага мастацтвазнаўства // Беларускае сучаснае мастацтвазнаўства і крытыка. Мн., 1998; Яе ж. Праблемы скарыназнаўства ў мастацтвазнаўчай спадчыне М.Шчакаціхіна // На шляху да сталасці: Стан і перспектывы развіцця бел. мастац. крытыкі. Мн., 2001.

***Ірына Чэбан.***

**Шчука** Станіслаў Антоні (1654, Рэчыцкі пав.—19.5.1710), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, публіцыст. Вучыўся ў Вільні і Кракаве. Шмат разоў выбіраўся паслом на соймы, яго маршалак у 1688—89 і 1699. З 1675 сакратар Яна III Сабескага, чашнік візнаўскі з 1682, рэгент вял. каронная канцыляры з 1684, рэферэндар каронны з 1688, падканцлер ВКЛ з 1699. З 1701 быў адміністратарам мыта ВКЛ. Удзельнічаў у пасольствах і дыпламатычных перагаворах, у т.л. з Пятром І. Быў прыхільнікам абрання на трон сына Яна III каралевіча Якуба, пасля падтрымаў абранне Аўгуста II, у 1706—09 падтрымліваў на троне Станіслава Ляшчынскага. З-за вял. дзяржаўных заслуг карыстаўся папулярнасцю ў шляхты. Пад псеўданімам Кандзідус Веранензіс выдаў на лацінскай мове кнігу «Зацьменне Польшчы, усяму свету паказанае» («Ecclipsis Poloniae orbi publico demonstrata», Варшава, 1709), дзе выклаў праграму фінансавых і ваенных рэформ: павелічэнне войска, аблажэнне ваенным падаткам шляхты і духавенства, стварэнне Скарбовай касіі і інш. Крытыкаваў удзел Рэчы Паспалітай у *Паўночнай вайне 170—21*. Узмацненне дзяржавы бачыў у саюзе з Расіяй і барацьбе з Турцыяй. Выступаў за паляпшэнне адукацыі, увядзенне ў школьныя праграмы гісторыі і геаграфіі, арганізацыю сталай паштовай службы, якая



С.А.**Шчука**.

б дастаўляла шляхце штотыднёвую бясплатную газету з паліт. навінамі, за скарачэнне тэрмінаў судовых працэсаў. Быў мецэнатам, сабраў вял. б-ку, гіст. матэрыялы. Меў маёнткі Рады ва Упіцкім пав., Сідра ў Гарадзенскім пав., на Украіне і ў Польшчы. Трымаў у Жамойці Вількійскае (з 1686), Платэльскае (з 1702) і Вякшнянскае (з 1703) стараствы, у Польшчы — Люблінскае староства (1687—1710), вёскі ў Гарадзенскай і Берасцейскай эканоміях; ад Станіслава Ляшчынскага ў 1707—08 атрымаў Палангу, Жыжморы, Ушпаль, Прэны і інш.

*Літ.*: Grochowska I. Stanisław Antoni Szczuka — jego działalność w ziemi wiskiej. Warszawa, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**Шчураўскі** Тыматэвуш (1740—1812), місіянер і прапаведнік базыльянскага ордэна. Паходзіў з Валыні. Быў прапаведнікам, потым настаяцелем базыльянскага манастыра ў Вільні. У 1792 заснаваў новы жаночы манаскі ордэн ва уніяцкім манастыры. Пісаў духоўныя вершы, якія доўгі час спявалі на Палессі. Аўтар вершаванага дыялога, твораў «Знак блаславення апостальскай навукі» (Вільня, 1780—83), «Бельская місія» (Супрасль, 1792).

**Шчучын** (цяпер горад, цэнтр Шчучынскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Лідскім пав., на р. Тур'я. Вядомы з 1-й пал. 15 ст. ў сувязі з заснаваннем тут у 1430 (1436?) троцкім ваяводам П.Лелюшам касцёла. За ўдзел у забойстве вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча Лелюш быў пазбаўлены вял. кн. Казімірам усіх уладанняў, у т.л. Ш. У 2-й пал. 15—16 ст. Ш. належаў Кучукам, Кішкам, Радзівілам, з пач. 17 ст. — Лімантам. З 1-й трэці 16 ст. мястэчка. Развівалася на Пд ад броду праз Тур'ю, уздоўж дарогі з Ліды ў Гародню. На З ад дарогі стаяў касцёл, на У, на беразе Тур'і знаходзілася сядзіба уладальніка мястэчка (в 18 ст. на гэтай тэрыторыі размяшчаўся фальварак Ш.). У сярэдзіне—2-й пал. 16 ст. сфарміравалася рыначная плошча, ад якой перпендыкулярна адыходзілі вуліцы. Магчыма, у 17 ст. сфарміраваўся сядзібна-паркавы комплекс на паўн. беразе Тур'і. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* моцна пацярпеў ад войск кн. І.А.Хаванскага і атрадаў В.Залатарэнкі, у пач. *Паўночнай вайны 1700—21* — ад войск Карла XII. Да сярэдзіны 18 ст. Ш. перайшоў да роду Сцыпіёнаў (раней валодалі толькі фальваркам Малы Ш., або Шчучынак за 4 км ад мястэчка). У 1726 заснаваны *Шчучынскі піярскі калегіум*. 23.5.1761 Ш. атрымаў магдэбургскае права і герб — у блакітным полі сярэбраная манаграма IS (ініцыялы Ігнацыя Сцыпіёна) пад залатой каронай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Крэнь І.П., Мараш Я.Н. Щучин: Ист.-экон. очерк. Мн., 1989; Данскіх С.У. Наш Шчучын. Гродна, 2001; Память: Гіст.-дакум. хроніка Шчучынскага р-на. Мн., 2001.

***Расціслаў Баравы.***

**Шчучынскі піярскі калегіум**, сярэдняя навучальная ўстанова ў *Шчучыне* ў 1718—1832. У Шчучын піяраў запрасіў гаспадар мястэчка Ю.Глябіцкі ў 1718, які перадаў ім парафіяльны касцёл і ахвяраваў 23 735 злотых. Пасля маёнтак перайшоў да яго дачкі Тэрэзы, якая пацвердзіла фундацыю бацькі, тое ж зрабіў у 1726 і сойм. Калегіум пры кляштары св. Георгія заснаваны ў 1718 (пры ім пэўны час дзейнічала семінарыя для ордэнскай моладзі, дзе выкладаліся нават усх. мовы, дзейнічала аптэка). Існаваў на прыватныя ахвяраванні, падпарадкоўваўся Літ. навучальнай акрузе. Меў 3 класы і 5 выкладчыкаў. У 1783 Адукацыйная камісія рэарганізавала калегіум у падакруговае вучылішча (у 1785 у ім было 119, у 1789 — 69 вучняў). Тут выкладаў прыродазнавец С.Юндзіл (гл. ў арт. *Юндзілы*), вучыліся філосаф К.*Нарбут*, гісторык-археограф М.*Догель* і інш.

*Літ.*: Łukaszewicz J. Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem od najdawniejszych czasów aż do roku 1794. T. 4. Poznań, 1851; Сборник материалов для истории просвещения в России. Т. 1. СПб., 1893; Белецкий А.В. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования, 1803—1832. Отд. 3. Вильна, 1906; Beauvois D. Szkolnictwo polskie na zemiach litewsko-ruskich, 1803—1832. T. 2. Rzym; Lublin, 1991.

***Андрэй Самусік.***

**Шчэня** Даніла Васілевіч (каля 1450—1515?), маскоўскі военачальнік, князь. Паходзіў з *Гедзімінавічаў* (праўнук Патрыкея Нарымонтавіча). З сярэдзіны 1470-х г. прыбліжаны вял. князя маскоўскага Івана III. Намеснік у Вял. Ноўгарадзе (1502—05, 1508—10), Маскве (з 1510), думскі баярын (з 1512). У 1489 адзін з кіраўнікоў экспедыцыі ў Вятку, якая ліквідавала незалежнасць гэтага краю ад Масквы. У 1495—96, 1501—02 ваяваў супраць шведаў у Фінляндыі. Найб. вызначыўся ў войнах з ВКЛ. У канцы 1492—пач. 1493 адваяваў у ВКЛ Вязьму. Вясной 1500 пасланы на дапамогу нерашучаму ваяводу Юр'ю Захар'ічу; 14 ліп. на чале вял. палка нанёс сакрушальнае паражэнне войску ВКЛ на чале з К.Астрожскім у *бітве на Вядрошы 1500*. У ліп. 1502 разам з сынам Івана III Дзмітрыем кіраваў аблогай Смаленска, у лютым 1502 вёў перагаворы з пасламі ВКЛ аб перамір'і. У 1508 пасланы з Вял. Лук падтрымаць *Глінскіх мяцеж 1508*. У канцы 1512—пач. 1513 фактычны кіраўнік маскоўскага войска ў 1-м Смаленскім паходзе; летам 1513 спрабаваў авалодаць Полацкам. Разам з Васілём III кіраваў 3-м Смаленскім паходам, асабіста прыняў капітуляцыю смалян 31.7.1514. Апошнія звесткі пра Ш. адносяцца да 1515, калі ён з войскам знаходзіўся ў Дарагабужы.

*Літ.*: Зимин А.А. Россия на пороге нового времени. М., 1972; Яго ж. Формированне боярской аристократии в России во второй половине XV—первой трети XVI в. М., 1988.

***Алесь Белы.***

**Шчэрбіч**, Шчэрбіц (Szczerbicz, Szczerbic) Павел (вер. 1552, Кракаў—30.3.1609), польскі прававед. З 1565 вучыўся ў Кракаўскім ун-це і за мяжой, пасля знаходзіўся пры двары ваяводы кракаўскага М.Фірлея. З 1577 сіндык і пісар львоўскі. Каля 1578 заклаў у Львове друкарню, дзе выдаваў і ўласныя юрыдычныя творы. Як прадстаўнік Львова ўдзельнічаў у соймах 1579 і 1581. З 1583 сакратар караля Стафана Баторыя, пасля Жыгімонта III. У 1585 набілітаваны. У 1588 прызначаны ў склад камісіі па рэдагаванні Статута ВКЛ. Каля 1603 стаў ксяндзом, пробашч сандамірскі, канонік варшаўскі. З уласных перакладаў на польскую мову склаў зборнік гарадскога права «Саксонскае люстра, або Саксонскае і магдэбургскае права...», «Гарадское права, гэта значыць Гарадское магдэбургскае права...» (абодва 1581), якія сталі адной з крыніц *магдэбургскага права* ў ВКЛ і выкарыстоўваліся ў гар. судах Беларусі.

*Літ.*: Тарановский Ф.В. Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи: Ист.-юрид. исслед. Варшава, 1897.

**Шыльдгаўз** (Schildhaus) Кароль, архітэктар канца 18—пач. 19 ст. Працаваў на Беларусі і ў Літве. У пач. 19 ст. губернскі архітэктар і выкладчык ун-та ў Вільні. Пабудаваў палацы М.Бутрымовіча ў Пінску (1784—90) і М.К.Агінскага ў Гародні (1790, не захаваўся). Выканаў праекты перабудовы парафіяльнага касцёла (каля 1790, не ажыццёўлены) і будаўніцтва казначэйства (1800) у Гародні.

***Валерый Марозаў.***

**шынкар**, гандляр гарэлкай, віном, півам у ВКЛ. Ш. былі пераважна ў гарадах, а ў сельскай мясцовасці яны арандавалі ў пана шынок ці *карчму*. У вялікакняжацкіх (каралеўскіх) гарадах дзейнасць Ш. рэгулявалася пастановамі *магістрата*, у прыватнаўладальніцкіх — распараджэннямі магната, уладальніка горада, які рэгулярна абвяшчаў тарыфы цэн на спіртныя напіткі. У прыватнаўладальніцкіх гарадах і маёнтках, дзе права *прапінацыі* належала магнатам, Ш. бралі ў арэнду выраб і продаж спіртных напіткаў. Права прапінацыі прыносіла вял. даход уладальніку маёнтка, адсюль зацікаўленасць шляхты і магнатаў у «шынкоўных дамах». Ш. складалі значную частку гандлёвага насельніцтва гарадоў. Найб. багатыя з іх бралі ў арэнду на некалькі гадоў усе шынкі ў горадзе ці латыфундыі. У 17—18 ст. значную частку Ш. складалі яўрэі.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Шырвідас** Канстанцінас, гл. *Сірвідас* К.

**Шырынскія**, Малікбашычы, татарскі княжацкі род у ВКЛ. Паходзіць з Крымскага ханства, дзе род Шырын належаў да 4 найб. заможных і ўплывовых; правіў у Крыме да ўтварэння там незалежнага татарскага ханства; менавіта дзякуючы падтрымцы шырынскіх мурзаў прастол (з дапамогаю ВКЛ) заняў заснавальнік дынасты Гірэяў хан Хаджы-Гірэй. Галава роду Шырын-бей меў тытул карачая. У 15 ст. адзін з прадстаўнікоў гэтай сям'і «Кудыяр-мурзин дед» некаторы час знаходзіўся ў ВКЛ (у 1420—30-я г. атрымаў дазвол паехаць у Арду да хана Улу-Магамета). Заснавальнікам галіны роду ў ВКЛ стаў яго ўнук кн. Малікбаша-мурза (?—каля 1530), які выехаў з Крыма ў 1491 з царэвічамі Ізцемірам і Дзеўлешам. Каля 1507 ён атрымаў ад Жыгімонта і маёнткі Крошын і Стайкі ў Навагародскім пав., а пасля 1508 — Лядзінкі (частка Раготны) у Слонімскім пав. Да 1523 паехаў у Крым. Яго сыны Муртаза (?—да 1559) і Усейн (Хусейн) Малікбашы і жонка засталіся ў ВКЛ; са сваіх маёнткаў яны выстаўлялі ў войска ВКЛ 10 коннікаў. Усейн, каралеўскі дваранін, у 1550 удзельнічаў у паходзе на татар на Падолле; у 1571 прадаў сваю частку Крошына і Стаек падканцлеру ВКЛ А.Валовічу. Асан Малікбашыч (?—1559/60), які каля 1530 вярнуўся з Крыма ў ВКЛ, атрымаў ад братоў трэцюю частку іх маёнткаў. Быў каралеўскім ротмістрам, удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Князі Агіш, Масько, Асан і Яська Мартузічы, Маско (Міско), Малікбаша, Алей Малікбашычы Ш. і іх сёстры ў 1570—71 таксама прадалі Валовічу свае часткі Крошына і Стаек. Дзеці кн. Агіша атрымалі ў спадчыну маёнтак Райца ў Навагародскім пав. Відаць, сынам Яна Агішавіча Ш. быў кн. Муртаза Шырын Мурза, які ў 1623 атрымаў ад Жыгімонта III Абрагімаўшчыну ў Навагародскім пав.; валодаў там жа і маёнткам Заблаць. Відаць, гэты род згас у 17 ст. Родавае прозвішча Шырын з 17 ст. ўжывала іншая татарская сям'я — Монтушы герба «Ключ» (нашчадкі ардынскага казака Монтуша, які ў 1522 атрымаў зямлю і людзей пад Крэвам), што валодала маёнткам Капацкоўшчына ў Ашмянскім пав. Супадзенне геральдычнай эмблемы і родавай мянушкі, відаць, сведчыць аб іх прыналежнасці да ўлуса Шырын (але не абавязкова да роду яго правіцеляў).

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929; Думин С.В. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slvica. Wrocław etc., 1991. Т. 20; Яго ж. Литовская ветвь князей Ширинских // Дворянские роды Российской империи. М., 1996. Т. 3.

***Станіслаў Думін.***

**шышы**, назва партызан, людзей, што ваявалі супраць царскай улады, у афіцыйных дакументах Маскоўскай дзяржавы з сярэдзіны 17 ст. Тэрмін з'явіўся ў крыніцах аб паўстанні ў Пскоўскім пав. 1650. Асабліва пашырыўся ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, калі пасля ўступлення царскай арміі на тэр. ВКЛ у паўн. і ўсх. Беларусі разгарнуўся шырокі нар. рух самаабароны. Ш. тут былі ў асноўным мясц. сяляне, атрадамі якіх (300—500 і больш чал.) камандавалі звычайна шляхціцы. Як правіла, Ш. дзейнічалі разам з войскам ВКЛ, часам выступалі і самастойна. Аб'яднаныя партызанскія атрады найб. небяспеку ўяўлялі для разрозненых царскіх фарміраванняў.

*Літ.*: Мальцев А.Н. «Шиши» на Смоленщине и в Белоруссии в середине XVII в. // Новое о прошлом нашей страны. М., 1967.

***Генадзь Сагановіч.***

**шэлег** (ад ням. Schilling), беларуская, польская і ўкраінская назва нізкапробных айчынных і замежных сярэбраных *солідаў* 15—18 ст., медных солідаў Рэчы Паспалітай 1659—66 (часам з удакладненнем «чырвоны» альбо «тоўсты») і 18 ст. Сярэбраны Ш. у Рэчы Паспалітай прыраўноўваўся да 1/3 гроша (у грашова-лікавай сістэме адпаведнік аўстрыйскага крэйцэра, які прыраўноўваўся да 1/3 аўстрыйскага шылінга). Медны Ш. 1659—66 прыраўноўваўся ў пач. 1660-х г. да 1/3 гроша ў серабры, у апошняй чвэрці 17—1-й пал. 18 ст. — да 1/8 сярэбранага лікавага гроша-асьмака (як вынік паступо-

вай інфляцыі, курс афіцыйна зафіксаваны рэдукцыяй 1717), з 1766 — медны Ш. роўны 1/3 меднага гроша (22,5 медных Ш. адпавядалі сярэбранаму грошу).

*Літ.*: Синчук И.И. Денежный счет в Великом княжестве Литовском и Речи Посполитой // Банковский вестник. 1994. № 10.

***Іван Сінчук.***

**шэлежнае**, 1) у Рэчы Паспалітай дарожны падатак з фурманак і паломнікаў на шляхах і пераездах. 2) Устаноўлены універсалам 1673 падатак з продажу моцных напіткаў, якія пастаўляліся оптам з дзярж. бровараў і саладоўняў для рознічнай рэалізацыі ў корчмы і шынкі. Сойм 1775 аб'яднаў Ш. з *чопавым* у адзіны падатак з моцных напіткаў ва ўсіх тыпах уладанняў.

***Яўген Анішчанка.***

**Шэметы**, шляхецкі род герба «Лебедзь». Упамінаюцца з 16 ст. Найб. вядомыя:

Ян Юр'евіч, сын Юрыя Шэметавіча. Валодаў маёнткам Дубраўляны (1539), у 1528 ставіў у войска 38 коннікаў.

Мальхер Станіслававіч (?—1570), падстараста жамойцкі, цівун рэтаўскі з 1548, бержанскі ў 1550, староста дынабургскі ў 1560, кашталян жамойцкі з 1566.

Вацлаў Мальхеравіч (?—13.4.1599), сын Мальхера Станіслававіча. Дзяржаўца расейнскі і скірстымонскі ў 1575, падкаморы жамойцкі з 1582, кашталян полацкі з 1588 і смаленскі з 1597. Вызнаваў кальвінізм.

Мальхер (?—да 22.8.1594), цівун Малых Дырвян у 1586, маршалак гаспадарскі з 1586.

Станіслаў (?—каля 1590), цівун паюрскі ў 1567, кухмістр ВКЛ у 1576—89.

Мікалай Казімір (?—пасля 1674), падкаморы вендэнскі ў 1669—79, падсудак жамойцкі ў 1674, пасол на сойм 1669. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. У маладосці ваяваў на Украіне ў войску кн. І.М.Вішнявецкага супраць татараў, удзельнічаў у бітве з імі пад Ахматавам 1644. Выдаў паэмы «Ахматаўская бітва» (1644), «Аб найважнейшых ваенных дзеяннях вялікага рыцара князя Іераміі Міхала Карыбута Вішнявецкага», склаў генеалогію Вішнявецкіх (1669). Аўтар паэмы «Рэляцыя пра жамойцкае паўстанне і выхад з-пад шведскай апекі» (1657, апубл. 1994).

Станіслаў Самуэль (?—24.4.1684), аўтар рэліг., маральных, сатырычных твораў, у т.л. паэм «Айчыны нефартуна», «Моц і рука Божая ў адвазе польскай і літоўскай паказаная ... пад Хацінам» (пра *Хацінскую бітву 1673*), «Вясёлае або раптоўнае эха шчаслівай і з вякоў нечуванай вікторыі над туркамі пад Венай 1683» (усе не выдадзены).

Мікалай (?—2.1.1736), стольнік смаленскі ў 1701—09 і аршанскі ў 1701, падкаморы аршанскі з 1713, кашталян полацкі з 1726.





**эгзулянты** (ад лац. exules выгнанцы), шляхта Рэчы Паспалітай, якая ў выніку ваенных дзеянняў страціла на акупіраваных тэрыторыях свае маёнткі і перасялілася ва ўнутраныя вобласці дзяржавы. Тэрмін вядомы з 17 ст. У ВКЛ шляхціцы-выгнанцы з'явіліся ў канцы 15 ст. з пачаткам войнаў з Маскоўскай дзяржавай. У якасці кампенсацыі атрымлівалі ад вял. князя літоўскага дзярж. землі ў цэнтр. і зах. абласцях краіны. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* з захопленай Полаччыны выехала шмат шляхецкіх сем'яў. 37 з іх (каля 30% усёй полацкай шляхты) атрымалі 13.8.1563 ад вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста ў часовае валоданне маёнткі ў дзярж. валасцях: 17 — у Магілёўскай, 12 — у Мазырскай, 2 — у Рагачоўскай, 2 — у Свіслацкай, 1 — у Суміліцкай, 4 — у Віцебскім пав., 2 — у Троцкім цівунстве. Новую хвалю Э. выклікалі войны 17 ст. і страты Рэччу Паспалітай вял. тэрыторый у Інфлянтах, на ўсходзе і на Украіне, якія былі заняты Швецыяй, Расіяй і Турцыяй. У выніку *Андросаўскага перамір'я 1667* да Расіі былі далучаны Кіеўскае, Чарнігаўскае і Смаленскае (са Старадубскім пав.) вояв., з якіх выехалі сотні Э. Частка іх перасялілася ў свае маёнткі на незанятай тэрыторыі, іншыя дамагаліся зямель з дзярж. фонду, паступалі служыць у войска. У 1667 пасольства Рэчы Паспалітай дамаглося ад Расіі кампенсацыі за страчаныя землі ў памеры 1 млн. злотых. З'явілася сістэма дзярж. дапамогі Э., якая праіснавала да канца 18 ст. У канцы 17 ст., калі Расія вярнула ВКЛ Веліжскую, Себежскую і Невельскую вол., там атрымалі землі Э., што раней не атрымалі дастатковай кампенсацыі. Страта шляхтай маёнткаў не пазбаўляла яе паліт. правоў. Э. захавалі карпарацыйныя шляхецкія арганізацыі, збіраліся на свае соймікі (кіеўскі і чарнігаўскі — у Жытоміры, смаленскі і старадубскі — у Вільні), існавалі адпаведныя ваяводскія і павятовыя шляхецкія пасады. Падзелы Рэчы Паспалітай 1772 і 1793 выклікалі з'яўленне новых Э., але большасць шляхты на занятых землях засталася пры сваіх маёнтках і прыняла новае падданства.

*Літ.*: Mienicki R. Egzulanci połoccy (1563—1580) // Ateneum Wileńskie. 1934. R. 9; Stolicki J. Egzulanci podolscy (1672—1699): Znaczenie uchodźców z Podola w życiu politycznym Rzeczypospolitej. Kraków, 1994; Kulecki M. Wygnańcy ze Wschodu: Egzulanci w Rzeczypospolitej w ostatnich latach panowania Jana Kazimierza i za panowania Michała Korybuta Wiśniowieckiego. Warszawa, 1997.

***Валерый Пазднякоў.***

**Эйшышкскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ у складзе Віленскага ваяводства ў канцы 18 ст. Цэнтр — мяст. Эйшышкі (цяпер Эйшышкес Шальчынінкскага р-на, Літоўская Рэспубліка). Створаны ў 1791 Чатырохгадовым соймам на аснове паўн. парафій Лідскага пав. (Беняконскай, Эйшышкскай, Нацкай, Асоўскай, Радунскай, Заблоцкай, пасля далучана Воранаўская). На Гарадзенскім сойме 1793 Э.п. далучаны да Мерацкага вояв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэрыторыя Э.п. ў складзе Рас. імперыі.

**эканом**, гл. *Аканом.*

**эканомія** (грэч. oikonomia кіраванне гаспадаркай), с т а л о в ы  м а ё н т а к, від дзяржаўнага зямельнага ўладання ў ВКЛ. Вылучаны на падставе соймавай канстытуцыі 1589 «Ардынацыя аб каралеўскіх прыбытках Вялікага княства Літоўскага» з каралеўскіх і велікакняжацкіх уладанняў для задавальнення патрэб двара манарха і прыдворнага скарбу. Мелі ўласнае адм.-гаспадарчае кіраванне, падначаленае надворнаму падскарбію ВКЛ. У адрозненне ад Э. іншыя каралеўскія ўладанні перадаваліся старастам (гл. *Староства*). На Беларусі існавалі *Берасцейская эканомія, Віцебская эканомія, Гарадзенская эканомія, Кобрынская эканомія, Магілёўская эканомія*, у Літве — *Аліцкая эканомія, Шаўлiская эканомія*. Для кантролю за станам Э. у іх праводзіліся *люстрацыі*. Падзяляліся на войтаўствы, ключы, губерні, лясніцтвы. Пасля далучэння Беларусі і Літвы да Рас. імперыі ў канцы 18 ст. Э. перайшлі ў царскую казну, некаторыя падараваны прыватным асобам. У 18 ст. ў ВКЛ некаторыя староствы таксама называліся Э. (*Полацкая эканомія*, Віцебская, Слонімская і інш.).

**экзактар** (лац. exactor зборшчык падаткаў), у Рэчы Паспалітай упаўнава-

жаны дзяржаўным скарбам *паборца* або наглядальнік за спагнаннем падымнага, пагалоўнага, мытных і прапінацыйных падаткаў, судовых штрафаў, дзярж. даўгоў і нядоімак. У ВКЛ існавалі з канца 16 ст. ў якасці дзярж. інспектараў у кожным павеце (ваяводстве). Э. прызначаліся з гаспадарскіх дваран, камісараў, арандатараў. Дзейнічалі паводле спец. інструкцый або падатковых тарыфаў, ухваленых мясц. соймікамі. Карысталіся дапамогай мясц. адміністрацыі (акономаў, губернатараў, магістратаў) і кватаруючых харугваў.

***Яўген Анішчанка.***

**экзекутар** (лац. exsecutor выканаўца), агульная назва выканаўцы судовых *выракаў* па крымінальных і грамадзянскіх справах у ВКЛ. Гэтыя функцыі ажыццяўлялі спраўцы, *віжы*, *возныя*, *дзецкія*, часам права экзекуцыі (асабліва па крымінальных справах) давалася непасрэдна пакрыўджанаму боку. У Статуце ВКЛ 1588 тэрмін «Э.» ужываецца і для вызначэння выканаўцаў *тастаментаў* духоўных асоб.

**эксдывізарска-таксатарскі суд**, часовы суд у Беларусі і Літве ў канцы 16—1-й пал. 19 ст. па раздзеле землеўладання неплацежаздольнага даўжніка паміж крэдыторамі прапарцыянальна іх прэтэнзіям. Уведзены Статутам ВКЛ 1588. Выконваўся *падкаморым* па пастанове *земскага суда* або *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* адпаведна чарговасці іскаў. Калі для іх задавальнення не хапала даходаў з аднаго маёнтка, то ў падзел браліся ўсе ўладанні даўжніка. Долі аддаваліся ў часовае трыманне пад 5—7% з правам выкупу. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі ў канцы 18 ст. Э.-т.с. былі найб. пашыраны ў Мінскай і Гродзенскай губ. Скасаваны разам са Статутам ВКЛ 1588 у 1840.

*Літ.*: Рубинштейн С.Ф. Виленские эксдивизорские дома. Вильна, 1892; Войшвилло Е.М. Эксдивизорские суды и их компетенция в губерниях бывшего Великого княжества Литовского в конце XVIII и первой половине XIX вв. Вильна, 1899.

***Яўген Анішчанка.***



1



2



3



4



5



6




7



8




9

**Экслібрысы**: 1 — П.Гальшанскага, каля 1533; 2 — Я.К.Хадкевіча, 1619?; 3 — Б.Радзівіла, 1671; 4 — Я.Ф.Сапегі, 1736; 5 — А.М.Сапегі, 1748—50; 6 — М.К.Радзівіла Рыбанькі, 1750—62; 7 — К.С.Радзівіла Пане Каханку, 1762—90; 8 — М.Е.Мнішка, 1780—90-я г.; 9 — І.І.Ю.Храптовіча, 1793—95.

**экслібрыс** (ад лац. ex libris з кніг), папяровы ярлык, які наклейваецца ўладальнікам бібліятэкі на кнігу, пераважна на ўнутраны бок пераплёту (форзац); звычайна на ім пазначана імя і прозвішча ўладальніка і малюнак, які лаканічна ці вобразна апавядае аб яго прафесіі, інтарэсах, складзе бібліятэкі. Э. выконваюць у тэхніцы друкарскага набору, ксілаграфіі, літаграфіі, цынкаграфіі, афорту і інш. Многія Э. з'яўляюцца выдатнымі творамі графічнага мастацтва. Вылучаюць некалькі тыпаў Э.: геральдычны (гербавы), які нясе выяву герба ўладальніка бібліятэкі; вензелевы з ініцыяламі ўладальніка; тэкставы (шрыфтавы) без якіх-небудзь малюнкаў; партрэтны з выявамі ўладальнікаў, пісьменнікаў, гіст. асоб; сюжэтны з архітэктурнымі і пейзажнымі выявамі, алегарычнымі малюнкамі, што адлюстроўваюць захапленні ўладальнікаў.

Э. з'явіўся, як лічаць, у Паўд. Германіі ў хуткім часе пасля вынаходніцтва кнігадрукавання. Найб. старажытны Э. Польшчы датуецца 1516 (зроблены ў Вене). Першы бел. Э. датуецца каля 1533 — дрэварытны адбітак, зроблены



непасрэдна на кнізе з б-кі біскупа луцкага і віленскага П.Гальшанскага (каля 1490—1555). На ім выява родавага герба князёў Гальшанскіх — *«Кітаўраса»* ў вянку з лісця і кветак. Да 19 ст. сярод бел. Э. пераважалі геральдычныя, бо герб разглядаўся як асн. знак уласнасці сярод самых шматлікіх уладальнікаў б-к гэтага часу — шляхты.

Самымі вял. кнігазборамі ў ВКЛ валодалі князі Радзівілы. Заснавальнікі б-кі Радзівілаў у Нясвіжы М.*Радзівіл* Чорны (1515—65) і яго сын М.К.*Радзівіл* Сіротка (1549—1616) карысталіся суперэкслібрысамі. Бібліятэка Б.*Радзівіла* (1620— 69) паводле яго тастамента была перавезена са Слуцка ў Каралявец, дзе для яе быў зроблены мемарыяльны Э. з выявай радзівілаўскага герба ў архітэктурнай арцы, памятным надпісам і датай «1671». Канцлер ВКЛ К.С.*Радзівіл* (1669—1719) меў 2 варыянты геральдычнага Э. Нясвіжскі гравёр Г.*Ляйбовіч* выканаў некалькі геральдычных Э. для ваяводы віленскага М.К.*Радзівіла* Рыбанькі (1702—62) і яго жонкі Ф.У.*Радзівіл* (1705—53), якія ўжо мелі некаторыя ракайльныя элементы ў сваім афармленні. Вял. харужы ВКЛ Г.Ф.*Радзівіл* (1715—60) б-кі ў Слуцку і Белай забяспечыў Э. новага тыпу. На ім змешчана выява архітэктурнага пейзажу, зверху — лунаючы радзівілаўскі арол, які ў дзюбе трымае стужку для надпісу (апошні рабіўся ад рукі). Геральдычныя Э. мелі ваяводы віленскія К.С.*Радзівіл* Пане Каханку (1734—90) і М.Г.*Радзівіл* (1744—1831), якія трымалі б-кі ў Нясвіжы і Нябораве.

Геральдычны Э. характэрны і для б-к Сапегаў у Слоніме, Ружанах, Дзярэчыне, Кодані. Кнігі з б-кі канцлера ВКЛ Л.І.*Сапегі* і яго нашчадкаў у 16—17 ст. забяспечваліся суперэкслібрысамі. Вялікі Э. канцлера ВКЛ Я.Ф.*Сапегі* (1680—1751), зроблены Я.Ф.Міліусам у 1736, акрамя герба мае выявы атрыбутаў канцлерскай пасады — пячатак, тамоў збору законаў (Валюміна легум) і Метрыкі ВКЛ. Міліус выканаў таксама для Я.Ф.Сапегі 2 малыя Э. і геральдычны Э. для яго жонкі Канстанцыі. Э. канцлера ВКЛ А.М.Сапегі (1730—93) нясе папулярную ў сярэдзіне 18 ст. выяву картуша з 2 бюстамі на калонах па баках; узброеная алегарычная фігура наверсе трымае шчыт з родавым гербам Сапегаў «Ліс», па баках знаходзяцца 2 армілярныя сферы, унізе — разгорнутыя кнігі (зроблены каля 1748—50). А.М.Сапега меў і просты тэкставы наборны Э. з узорнай рамкай. Яго б-кі знаходзіліся ў Дзярэчыне і Ружанах.

Да найлепшых узораў графічнага мастацтва ў стылі барока належыць пышны Э. ваяводы віленскага і вял. гетмана ВКЛ Я.К.Хадкевіча, які зроблены гравёрам Я.Зярнкам у 1619(?). Староста лідскі, маршалак надворны ВКЛ Ю.Сцыпіён (?—1743), які трымаў б-ку ў Воранаве, карыстаўся 2 простымі тэкставымі Э. Геральдычны Э. кашталяна і ваяводы троцкага Т.Ф.Агінскага (1712—83) выканаў у 1747 П.Ю.Енджыеўскі. Гэтым Э. (з абрэзаным надпісам) карыстаўся і яго сын, вял. гетман ВКЛ М.К.Агінскі (1730—1800); іх б-ка знаходзілася ў Слоніме. Э. маршалка надворнага ВКЛ і вял. кароннага маршалка М.Е.Мнішка (1742—1806) мае выяву родавага герба ў ракайльным картушы ў лапах арла, дадатковыя элементы — маршалкоўскае жазло і 3 ордэны. Паліт. дзеяч, пісьменнік і гісторык Ю.*Нямцэвіч* (1758—1841) збіраў б-ку ў Скоках (Берасцейскі пав.), для якой прызначаўся геральдычны Э. з уладальніцкім надпісам. Вядомы бібліяфіл, канцлер ВКЛ І.І.Ю.*Храптовіч* (1729—1812), заснавальнік б-кі ў Шчорсах, ужо цалкам адмовіўся ад геральдычных Э. На вядомых даследчыкам яго трох Э. змешчаны толькі лацінскія ўладальніцкія надпісы ў простай або ўзорнай ракайльнай рамцы. Значнай б-кай валодалі ў Лявонпалі *Лапацінскія*. Я.Д.Лапацінскі (1709—78) меў Э. у выглядзе круглай пячаткі з гербам, Я.Н.Лапацінскі (1747—1810) — тэкставы Э., а Т.Л.Лапацінскі (1753—1827) — складаны Э., упрыгожаны 2 бюстамі па баках картуша, армілярнай сферай, цыркулем, кнігамі і гербамі. Такі тып Э. выпрацаваў у сярэдзіне 18 ст. віленскі гравёр Ф.*Бальцэвіч*. Падобныя Э. мелі і некаторыя даміканскія б-кі. Большасць б-к кляштараў, езуіцкіх і піярскіх калегіумаў валодала сціплымі тэкставымі Э.

*Літ.*: Wittyg W. Exlibrisy bibliotek polskich XVI—XX w. T 1—2. Warszawa, 1903—07; Przypkowski T. Franciszek Balcewicz i geneza graficzna ekslibrisu z XVIII w. // Materiały do dziejów ziemi sejneńskiej. Białystok, 1963; Тычина А.Н. К истории белорусского экслибриса // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1972. Вып. 2; Яго ж. Беларускі экслібрыс XVII—XIX стст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусь 1973. № 1; Lewicka-Kamińska A. Nieznane ekslibrisy polskie XVI wieku w Bibliotece Jagiellońskiej. Kraków, 1974; Тычына А., Шматаў В. Беларускі кніжны знак. Мн., 1975; Kisarauskas V. Lietuvos knygos zenklai, 1518—1918. Vilnius, 1984; Яго ж. Lietuvių ekslibrisas. Vilnius, 1991; Судлянкоў А. Весткі стагоддзяў: Старажытны бел. экслібрыс // Мастацтва Беларусі. 1989. № 7; Яго ж. Экслибрисы рода Радзивиллов // На шляхах да ўзаемаразумення. Мн., 2000; Стефанович А.В. Экслибрисы князей Радзивиллов в книжных собраниях Несвижской ординации // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мн., 2005. Вып. 6.

***Валерый Пазднякоў.***

**Эрдзівіл**, легендарны навагародскі князь, дзейнасць якога беларуска-літоўскія летапісы адносяць да сярэдзіны 13 ст. Паводле летапісных звестак, сын вял. князя жамойцкага Мантвіла. Даведаўшыся, што землі Русі спустошаны мангола-татарамі, Мантвіл адправіў туды свайго сына Э., які нібыта пабудаваў (або адбудаваў) гарады Навагародак, Гародня, Берасце, Дарагічын, Мельнік (паводле М.Стрыйкоўскага, таксама Мерач, Ваўкавыск і Мсцібогаў). Летапісы паведамляюць, што Э. зрабіў Навагародак сваёй сталіцай, прыняў тытул вял. князя навагародскага і што ад яго сына Мінгайлы, вял. князя навагародскага і полацкага, пайшлі дынастыі навагародскіх і полацкіх князёў. У летапісах Красінскага і Еўраінаўскім замест Э. пастаўлена імя Скірмант, а ў «Хронікі літоўскай і жамойцкай» і ў гісторыка 16 ст. А.Ратундуса Э. названы Радзівілам (відаць, для ўзвышэння роду Радзівілаў). Рэальнасць існавання Э. не пацвярджаецца інш. тагачаснымі крыніцамі. Магчыма, імя Э. паходзіць ад імя сына вял. кн. *Міндоўга* Эдзівіда, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

***Валерый Пазднякоў.***





**Юдзіцкія**, Юдыцкія, шляхецкі род герба «Радван». Паводле сямейнага падання, паходзілі з Германії, дзе валодалі замкам Валдорф. 1-ы вядомы ў ВКЛ прадстаўнік роду Базыль Дзмітрыевіч (каля 1520—?), каралеўскі дваранін, атрымаў ад Жыгімонта II Аўгуста маёнткі Свержань, Журавічы і Балотня ў Рэчыцкім пав. Яго сын Аляксандр, падсудак рэчыцкі, павялічыў уладанні за кошт новых падараванняў ад Стафана Баторыя, у якіх заклаў маёнткі Юдзічы і Крыўка. У Рэчыцкім пав. Ю. разам з Халецкімі займалі пануючае становішча. Відаць, род згас да пач. 20 ст. Найб. вядомыя:

Мікалай Уладзіслаў (?—1670), каралеўскі дваранін, стольнік рэчыцкі з 1640, генерал артылерыі ВКЛ з 1654, кашталян навагародскі з 1660. У 1627—29 камандаваў артылерыяй у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. У час замежнай паездкі ўступіў у Мальтыйскі ордэн і ўдзельнічаў у бітвах з туркамі ў Алжыры, Тунісе і на востраве Крыт. Разам з братам Тамашом быў бліжэйшым паплечнікам Ж.К.*Радзівіла*, заснавальніка і 1-га ўладальніка Сталавіцкай камандорыі Мальтыйскага ордэна. Узначаліў яе пасля смерці Радзівіла ў 1642. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* камандаваў харугвай і коннымі злучэннямі, удзельнічаў у *Палонкаўскай бітве 1660, бітве на Басі 1660, Кушліцкай бітве 1661*. У 1666 набыў маёнтак Новая Мыш, дзе заснаваў езуіцкі калегіум.

Валерыян Станіслаў (1620—73), сакратар каралеўскі з 1652, канонік з 1654, пісар ВКЛ і архідыякан віленскі з 1657, рэферэндар духоўны ВКЛ з 1670.

Аляксандр (?—1677), стараста ясвонскі з 1664, кашталян менскі з 1672. У 1655 вызначыўся ў баявых дзеяннях супраць шведаў у Жамойці. На чале харугвы ўдзельнічаў у вайне з Расіяй 1654—67. Валодаў землямі ў Ашмянскім, Рэчыцкім і Слонімскім пав.

Міхаіл Станіслаў (?—1701), войскі рэчыцкі. Вызначыўся як камендант Ляхавіцкага замка ў час яго аблогі рас. войскамі ў 1660. У 1661 сойм пастанавіў кампенсаваць яму выдаткі на вайну (21 400 злотых) і вызваліў яго маёнткі Гальдовічы і Дзянісаўшчына на 30 гадоў ад падаткаў. У 1676 стаў уладальнікам Лоева, які да 2-й пал. 19 ст. належаў яго нашчадкам.

Антоні (каля 1670—1729), сын Станіслава, паручнік войска ВКЛ з 1688, рэчыцкі харужы з 1690, падкаморы з 1699 і маршалак з 1701. 7 разоў выбіраўся паслом на соймы. Уладальнік маёнткаў Юдзічы, Асмолавічы, Ямнае, Кулікоўка і Бохань у Рэчыцкім пав.

Міхал (1700—5.12.1758), сын Антонія, рэчыцкі харужы з 1715 і маршалак з 1729, кашталян менскі з 1742; у 1740 маршалак Трыбунала ВКЛ. Прыхільнік партыі Чартарыйскіх.

Ян (каля 1705—80), сын Антонія, харужы рэчыцкі з 1729, пісар вялікі ВКЛ з 1755, кашталян менскі ў 1758—77.

Юзаф (каля 1725—пасля 1797), сын Міхала, маршалак рэчыцкі з 1767, абозны вялікі ВКЛ з 1774, стражнік вялікі ВКЛ у 1776—89; у 1777 маршалак Трыбунала ВКЛ. Шмат разоў выбіраўся паслом на соймы. З 1783 генерал-лейтэнант, камандзір 1-й дывізіі войска ВКЛ, потым шэф 4-га палка булавы польнай. 1.6.1792 прызначаны галоўнакамандуючым войскам ВКЛ, але 10.6.1792 разбіты рас. войскамі пад Мірам і праз тыдзень заменены на пасадзе галоўнакамандуючага М.Забелам. У 1793 служыў у рас. войску. У 1797 у складзе дэлегацыі ад Мінскай губ. прысутнічаў на каранацыі Паўла I.

*Літ.*: Niesiecki K. Herbarz polski. T. 4. Lipsk, 1839; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхаіл Красноў.***

**Юліянія Альшанская** (?—1550), праваслаўная святая. Паходзіла са старадаж. княжацкага роду Дубравіцкіх-Альшанскіх, дачка правасл. магната Рыгора Альшанскага. Выхоўвалася ў духу хрысціянскай пакорлівасці, вызначалася любоўю да навук, шчодрымі ахвяраваннямі на карысць Кіева-Пячэрскай лаўры, асабліва храма Успення Багародзіцы. Памерла ў 16-гадовым узросце і была пахавана ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Мошчы святой набылі вядомасць шматлікімі цудатворствамі і вылячэннямі. Ушаноўваць Ю.А. пачалі ў 1624. Уваходзіць у Сабор бел. святых.

**Юндзілы**, шляхецкі род герба «Лебедзь». Родапачынальнік — Рачка, які

жыў на мяжы 14—15 ст., меў сына Юндзіла, ад імя якога ўтварылася прозвішча Ю. Найб. вядомыя:

Мікалай Юндзілавіч (?—пасля 1527), сын Юндзіла Рачкавіча. Кухмістр вял. княгіні Алены Іванаўны ў 1495—1505, намеснік дубіцкі і канеўскі з 1506, харужы земскі (вялікі) у 1506—11, маршалак гаспадарскі ў 1516—27. У 1498 атрымаў ад вял. кн. Аляксандра пацвярджэнне на маёнтак Крамяніца каля Ваўкавыска, якім валодалі яшчэ яго бацька і дзед. У 1495 атрымаў ад Аляксандра некалькі пустых сёл каля Ваўкавыска, а ў 1500 — Даўгаброды, Карошчын і Бярозкі на Берасцейшчыне.

Мацей Янавіч (?—?), сын Яна Юндзілавіча. Маршалак гаспадарскі ў 1538

Мікалай Шымкавіч (?—?), сын Шымкі Юндзілавіча. Войскі і канюшы гарадзенскі з 1539, намеснік мерацкі каралевы Боны ў 1541.

Войцех Шымкавіч (?—?), сын Шымкі Юндзілавіча. Дзяржаўца лепунскі і валькеніцкі з 1541, ушпальскі і пенянскі, цівун і гараднічы віленскі з 1542.

Мікалай (?—?), сын Паўла Юндзілавіча. Суддзя земскі слонімскі ў 1555—62, каралеўскі дваранін у 1570, паборца слонімскі ў 1567 і 1568.

Андрэй (?—да 14.2.1606), сын Мацея Янавіча. Маршалак ваўкавыскі ў 1586, адначасова з 1586 маршалак гаспадарскі.

Францішак (?—1818), сын Аўгусціна. Падкаморы гарадзенскі з 1784. Валодаў маёнткам Бераставіца ў Гарадзенскім пав. У 1798 атрымаў ад прускага караля для сябе і сваіх нашчадкаў графскі тытул.

Станіслаў Баніфацый (6.5.1761, в. Ясянцы Лідскага пав.—15.4.1847), сын Бенядзікта, прыродазнавец, батанік. Д-р філасофіі (1798) і тэалогіі (1800). Уступіў у ордэн піяраў, вучыўся ў піярскіх калегіумах у Лідзе, Шчучыне, Любяшове і Расейнах, у Віленскай акадэміі. Выкладаў у Шчучыне і Вільні. За кнігі «Апісанне раслін у правінцыі ВКЛ...» (1791) і «Пра салёныя крыніцы і стаклішскую соль» (1792) узнагароджаны каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім залатымі медалямі «Заслужаным». З 1792 віцэ-прафесар Гал. школы ВКЛ. З 1799 узначальваў кабінет натуральнай гісторыі ун-та і батанічны сад, з 1802 праф. натуральнай гісторыі і батанікі (да 1824). Аўтар прац па батаніцы, заалогіі, мінералогіі, геалогіі, ветэрынарыі, сельскай гаспадарцы. Пад псеўданімам Ваўрынец Кастрыца выдаваў сатырычны час. «Bibliophobia» («Бібліяфобія»). Пакінуў мемуары — каштоўную крыніцу па гісторыі Віленскага ун-та і культурнага жыцця Літвы і Беларусі.


Да арт. **Юндзілы**. С.Б.Юндзіл. Гравюра паводле малюнка К.Рыпінскага. 1850.

*Валерый Пазднякоў.*

**Юравіцкая езуіцкая рэзідэнцыя**, установа ордэна езуітаў у мяст. Юравічы Мазырскага пав. (цяпер вёска ў Калінкавіцкім р-не) у 17—18 ст. У 1674 Барбара Лозка і Марыяна Катарская перадалі Юравічы ў поўную ўласнасць ордэну. Акрамя гэтага, Барбара Лозка падаравала езуітам 3 вёскі — Пініцы, Хабна, Крышачы і 11 381 злоты. Паводле завяшчання свайго мужа Міхала Лозкі яна абавязалася перадаць ордэну яшчэ 10 тыс. злотых. У 1677 жонка рэчыцкага маршалка Настасся Пагірская завяшчала езуітам свой маёнтак Хазін. Пазней езуіты набылі і в. Тулавічы. У 1681 у выніку місіянерскай дзейнасці езуітаў Астрожскага калегіума ў Юравічаў паўстала езуіцкая місія. У гэты год Ян III Сабескі даў Юравічам правы мястэчка. Тут езуіты вялі актыўную рэліг. дзейнасць дзякуючы абразу Маці Божай Ласкавай, якая карысталася ў вернікаў вял. пашанай. Да яе адбываліся паломніцтвы, шляхта ахвяравала сродкі на будаўніцтва новага касцёла. Пасля заканчэння будаўніцтва (1717—50) у касцёл з вял. урачыстасцю быў унесены абраз. Тут езуіты праводзілі царк. святы, прымеркаваныя да раздачы індульгенцый. У 1754 місія пераўтворана ў рэзідэнцыю. У 1756 адкрыта школа, у 1757 яна пераўтворана ў сярэднюю. Пры рэзідэнцыі былі музычная бурса (з 1765), тэатр і б-ка. Юравіцкай рэзідэнцыі падпарадкоўваліся Мазырская (заснавана ў 1729, фундуш 20 тыс. злотых) і Брагінская (заснавана ў 1750 на ахвяраванні Кацярыны Мнішак).


**Юравіцкая езуіцкая рэзідэнцыя**.

*Тамара Блінова.*

**Юргініс** (Jurginis) Юозас (5.2. 1909, в. Віконіс Анікшчайскага р-на, Літва—5.7.1994), літоўскі гісторык. Акадэмік АН Літвы (1968), праф. (1968). Заслужаны дзеяч навукі Літвы (1965). Скончыў Вільнюскі ун-т (1946). За рэвалюцыйную дзейнасць у 1929—34 і ў 1937 зняволены. З 1937 у Стакгольме. У 1940 дырэктар Паліт. дэпартамента Міністэрства замежных спраў. У 1945—48 дырэктар б-кі АН Літвы. З 1948 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы (у 1948—51, 1956—72 намеснік дырэктара). У 1950—72 выкладаў у Вільнюскім ун-це. Даследаваў культуру, сац.-эканам. адносіны ў ВКЛ, гісторыю Вільнюса, Вільнюскага ун-та. Аўтар кніг «Нарысы гісторыі літоўскага мастацтва» («Lietuvos meno istorijos bruožai», Вільнюс, 1960), «Запрыгоньванне сялян у Літве» («Baudžiavos įsigalėjimas Lietuvoje», Вільнюс, 1962), «Рэнесанс і гуманізм у Літве» («Renesansas ir humanizmas Lietuvoje», Вільнюс, 1965),



«Гісторыя і паэзія: Эцюды па гісторыі культуры» («Istorija ir poezija: kultūros istorijos etiudai», Вільнюс, 1969), «Легенды пра паходжанне літоўцаў» («Legendos apie lietuvių kilmę», Вільнюс, 1971), «Адносіны язычніцтва і хрысціянства ў Літве» («Pagonybės ir krikščionybės santykiai Lietuvoje», Вільнюс, 1976), «Асуджэнне: апавяданне пра К.Лышчынскага» («Pasmerkimas: pasakojimas apie K. Liščinskį», Вільнюс, 1976), «Гісторыя літоўскага сялянства» («Lietuvos valstiečių istorija», Вільнюс, 1978), «Нарысы гісторыі літоўскай культуры» («Lietuvos kultūros istorijos bruožai», Вільнюс, 1981, з І.Лукшайтэ), «Гісторыя і культура: нарысы прагрэсу культуры» («Istorija ir kultūra: kultūros pažangos apybraižos», Вільнюс, 1984), «Мучанікі і святыя: легенды і рэчаіснасць» («Kankiniai ir šventieji: legendos ir tikrovė», Вільнюс, 1984), «Медніцкі замак» («Medininkų pilis», Вільнюс, 1984), «Хрышчэнне Літвы: Даследаванні грамадскага і культурнага развіцця феадальнага грамадства» («Lietuvos krikštas: feodalinės visuomenės socialinės ir kultūrinės raidos studija», Вільнюс, 1987), «Пазнанне бацькаўшчыны: гістарычныя нарысы» («Tėvynės pažinimas: istorijos apybraižos», Каўнас, 1989), «Літоўскі эпас: героі, палкаводцы, князі» («Lietuvių epas: didvyriai, karvedžiai, kunigaikščiai», Каўнас, 1992). Адзін з аўтараў кніг «Гісторыя Літоўскай ССР» (т. 1—3, 1957—65; 1978; т. 1, 1985), «Гісторыя горада Вільнюса» («Vilniaus miesto istorija», т. 1, Вільнюс, 1968), «Гісторыя Вільнюскага універсітэта» (т. 1—2, 1976—77). Падрыхтаваў да выдання Судзебнік Казіміра 1468 [«Kazimiero teisynas (1468 m.)», Вільнюс, 1967]. Дзярж. прэміі Літвы 1958, 1969, 1981.

*Тв.*: Сельская община литовцев. М., 1964; Причины позднего распространения христианства в Прибалтике. М., 1970; Судьба магдебургского права в литовских городах // История СССР. 1975. № 4; Изменения в аграрном строе Литвы в эпоху феодализма // Вопросы истории. 1976. № 9; Литовские книги XVI в. и проявление в них идей гуманизма // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Бояре и шляхта в Литовском государстве // Восточная Европа в древности и средневековье. М., 1978; Бояре и дворяне и их землевладение в Великом княжестве Литовском // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1969. Киев, 1979; Посольство Михаила Литвина у крымского хана в 1538—1540 гг. // Россия, Польша и Причерноморье в XV—XVIII вв. М., 1979; Литовский Статут — памятник истории права и культуры Великого княжества Литовского // Первый Литовский Статут 1529 года. Вильнюс, 1982.

*Літ.*: Kašauskienė B., Šiškienė A. Juozas Jurginis: Literatūros rodyklė. Vilnius, 1986.

**Юрша** (?—пасля 1475), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Паходзіў, магчыма, з Мсціслаўскага княства. Належаў да ліку магнатаў, якія адстойвалі незалежнасць ВКЛ у дачыненнях з Польшчай, і ў гэтым падтрымліваў вял. князёў Вітаўта, Свідрыгайлу і Казіміра. Ад Вітаўта атрымаў пасаду луцкага старасты (быў ім ужо ў 1429). У 1431 паспяхова бараніў Луцк ад нападу польскіх войск. У час *феадальнай вайны 1432—39* падтрымліваў Свідрыгайлу. Пасля страты ў 1432 Луцка Свідрыгайла прызначыў Ю. бранскім старастам, каля 1436 — кіеўскім ваяводам. У 1436 Ю. захапіў для Свідрыгайлы г. Старадуб, у 1437 разбіў пад Кіевам войска Жыгімонта Кейстутавіча, але пасля быў вымушаны прызнаць яго як вял. князя. Ад вял. кн. Казіміра атрымаў Крэменецкае (з 1441) і Брацлаўскае (1447—52) старасты. У 1452 Ю. быў адным з 3 упаўнаважаных, хто прымаў Валынь пад уладу цэнтр. ўрада пасля смерці панаваўшага там Свідрыгайлы. Сын Ю. Іван быў гаспадарскім маршалкам (1488—89) і ўладзімірскім намеснікам.

**юрыдыкі** (ад лац. jurisdictio юрысдыкцыя), у ВКЛ адміністрацыйна адасобленыя часткі гарадоў ці прадмесцяў, якія былі пад уладай феадала, царквы або манастыра і на жыхароў якіх не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання. Узніклі ў выніку перасялення прыгонных на ўчасткі і ў дамы, якія належалі феадалам у гарадах, ці перасялення саміх гараджан у межах гар. уладанняў феадала. У кожнай Ю. яе ўласнік прызначаў старасту або войта, засноўваў судовы орган на ўзор гар. рады. Гар. самакіраванне дамагалася скасавання Ю., забараняла мяшчанам пад пагрозай выгнання з горада пераход на Ю. У шэрагу выпадкаў магістраты дамагаліся поспехаў, але ў цэлым барацьба гарадоў супраць прыватнаўласніцкіх Ю. не мела поспеху з-за слабасці вярхоўнай улады, якая не змагла ўстанавіць забарону на Ю., бо ў іх былі зацікаўлены феадалы і царква. Пасля Люблінскай уніі 1569 пашырэнню Ю. садзейнічала ўмацаванне пазіцый і рост уладанняў каталіцкай царквы. Ю. паскорылі працэс канцэнтрацыі ў гарадах рамесніцтва і гандлю, што спрыяла пашырэнню іх ролі як цэнтраў дробнатаварнай вытворчасці і абмену. Адначасова пашырэнне Ю. узмацняла ўплыў феад. анархіі на гарады, што перашкаджала іх эканам. развіццю і працэсу саслоўнай кансалідацыі гараджан. У Берасці і Менску Ю. вядомы з 15 ст., у Віцебску, Полацку, Гародні, Кобрыне, Пінску, Навагародку і інш. гарадах — з 16 ст. Прывілей Менску на магдэбургскае права 1499 пашыраў яго на ўсіх жыхароў горада, але гэты прынцып застаўся нерэалізаваным. Тут буйныя Ю. належалі князям Радзівілам, Друцкім-Горскім, Саламярэцкім, панам Корсакам, а таксама некаторым правасл., уніяцкім і каталіцкім цэрквам і манастырам, пратэстанцкай абшчыне. Невял. Ю. існавалі і ў прыватнаўласніцкіх гарадах, дзе належалі ўласніку горада (т.зв. замкавыя), шляхце, царкве. Скасаваны соймамі ў 1764 і 1791.

*Літ.*: Карпачев А.М. Феодальные юридики в королевских городах Белоруссии XVII—XVIII вв. // Сов. славяноведение. 1968. № 6; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Юхо И.А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978.

***Зіновій Капыскі.***

**Юрый Львовіч** (24 крас. паміж 1253 і 1260—24.4.1308), князь галіцка-валынскі (насіў тытул «караля Русі»). Сын галіцкага кн. Льва Данілавіча, унук *Данілы Раманавіча*. Хросным бацькам Ю.Л. быў літоўскі кн. *Войшалк*. Пры жыцці бацькі трымаў Зах. Волынь з гарадамі Холм, Чэрвень, Мельнік і Дарагічын (пасля —толькі 2 апошнія). Каля 1277 разам з іншымі князямі ўдзельнічаў у татарскім паходзе на літ. ўладанні ў Панямонні. Калі ў Берасці даведаўся, што татары ваююць каля Навагародка, то самачынна з луцкім кн. Мсціславам Данілавічам рушыў на Ваўкавыск, дзе быў разбіты літоўцамі. Неў-



забаве рушыў на Гародню, захапіў вежу перад гар. брамай, пасля чаго заключыў з гарадзенцамі мір. Удзельнічаў у татарскім паходзе 1285 на Венгрыю, паходах 1286 і 1287 на Польшчу. Разам з бацькам неаднаразова ўмешваўся ў міжусобіцы польскіх князёў. Дамагаўся ў стрыечнага дзядзькі, хворага кн. *Уладзіміра Васількавіча* права на валоданне Берасцем, але атрымаў адмову. У 1289 (?) з дапамогай мясц. змоўшчыкаў захапіў Берасце, Камянец і Бельск. Мсціслаў Данілавіч, якому гэтыя гарады належалі па спадчыне, прыгразіў Ю.Л. татарамі, і той пакінуў усе 3 гарады, абрабаваўшы там двары Уладзіміра Васількавіча. Пасля смерці бацькі (1301?) Ю.Л. атрымаў усе галіцкія і валынскія землі, у т.л. Берасцейскую. Прыкладна ў 1303—04 ён заснаваў *Галіцкую праваслаўную мітраполію* (2-ю на Русі пасля Кіеўскай), у якую ўвайшла і Тураўская епархія. Пры Ю.Л. Галіцка-Валынскае княства дасягнула росквіту. Польскі храніст Я.Длугаш адзначаў: «Быў ён муж мудры, ласкавы і шчодры для духавенства, пры яго ўладзе Руская зямля цешылася спакоем і славілася сваім багаццем».

***Валерый Пазднякоў.***

**Юрый Уладзіміравіч** (?—1292), князь пінскі. Сын пінскага кн. Уладзіміра. У 1262 разам са старэйшымі братамі пінскімі князямі *Фёдарам Уладзіміравічам* і *Дзямідам Уладзіміравічам* віншаваў у Неблі галіцка-валынскага кн. Васільку Расціславіча з перамогай над літоўцамі. З нагоды смерці (паводле М.Грушэўскага, яна наступіла ў 1288/89) Ю.У. характарызуецца летапісцам як «кроткый, смиреный, правдивый». Ю.У. — апошні вядомы пінскі князь з дынастыі Ізяславічаў.

**Юхо** Іосіф (Язэп) Аляксандравіч (19.3.1921, Пінск—29.7.2004), беларускі гісторык права. Д-р юрыд. навук (1982), праф. (1983). Скончыў Мінскі юрыд. ін-т (1949). У 1939—46 у Чырвонай Арміі, удзельнік Вял. Айчыннай вайны. У 1949—51 нар. суддзя Варашылаўскага р-на Мінска. У 1952—56 у Ін-це філасофіі і права АН Беларусі. У 1961—64 намеснік старшыні юрыд. камісіі пры Савеце Міністраў БССР. У 1956—60 і з 1964 у БДУ: дацэнт, заг. кафедры, намеснік дэкана юрыд. факультэта, праф. кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права. Вывучаў гісторыю дзяржавы і права Беларусі (заснавальнік навук. школы па гэтай тэме ў БДУ). Адзін з аўтараў энцыклапедычнага даведніка «Статут Вялікага княства Лтоўскага 1588» (1989). Абгрунтаваў, што Статуты ВКЛ былі першымі ў Еўропе дасканалымі зводамі законаў. Пачаў распрацоўку дзярж.-прававых поглядаў Ф.Скарыны і прапанаваў ідэю аб яго ўдзеле ў складанні і рэдагаванні Статута ВКЛ 1529. Выказаў палажэнне аб канфедэратыўным ладзе Рэчы Паспалітай, якая складалася з 2 самастойных і суверэнных дзяржаў — ВКЛ і Польшчы. Пачаў у Беларусі вывучэнне жыцця і дзейнасці А.Т.Б.Касцюшкі. Даследаваў паходжанне імён, якія надаваліся Беларусі ў розныя часы.

*Тв.*: Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; За вольнасць нашу і вашу: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1990; Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992; «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994 (з У.П.Емяльянчыкам); Гістарыяграфія гісторыі дзяржавы і права феадальнай Беларусі. Мн., 1999; Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917—1945 гг.). 2 выд. Мн., 2000 (з В.А.Круталевічам); Гісторыя дзяржавы і права Беларусі. Ч. 1. Мн., 2000; История юридической науки Беларуси. Мн., 2000 (з С.Ф.Сокалам); Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі. Мн., 2001 (з Р.А.Васілевічам, Т.І.Доўнар); Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах. 2 выд. Мн., 2003 (з А.Ф.Вішнеўскім).

*Літ.*: Кушнер В. Стваральнік беларускай школы гісторыі дзяржавы і права // Бел. гіст. часопіс. 2001. № 2.

**Ючас** (Jučas) Мечысловас (н. 26.4.1926, в. Вабаляй Радвілішскага р-на, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гіст. навук (1972), праф. (1976). Скончыў Вільнюскі ун-т (1951). Вучыўся ў аспірантуры ін-та гісторыі АН СССР (1952—56). У 1956—85 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы (з 1972 намеснік дырэктара). У 1958—66 і з 1972 выкладае ў Вільнюскім ун-це. Вывучае гісторыю, сац.-эканам. адносіны, летапісанне ВКЛ. Даследаваў архівы Літвы, Расіі, Польшчы і Швецыі. Аўтар кніг «Літоўскія летапісы» («Lietuvos metraščiai», Вільнюс, 1968), «Крах прыгоннага права ў Літве» («Baudžiavos irimas Lietuvoje», Вільнюс, 1972), «Жальгірыская бітва» («Žalgirio mūšis», Вільнюс, 1999), «Унія Літвы і Польшчы» («Lietuvos ir Lenkijos unija», Вільнюс, 2000), «Шлях хрысціянства ў Літву: Этапы і праблемы» («Krikščionybės kelias į Lietuvą: Etapai ir problemos», Вільнюс, 2000), «Літоўскія летапісы і хронікі» («Lietuvos metraščiai ir kronikos», Вільнюс, 2002). Адзін з аўтараў кніг «Вайна Літвы з крыжакамі» («Lietuvos karas su kryžiuočiais», Вільнюс, 1964), «Сялянскі рух у Літве ў 1861—1914 гг.» (Вільнюс, 1975), «Гісторыя Літоўскай ССР: (З найстаражытных часоў да нашых дзён)» («История Литовской ССР: (С древнейших времен до наших дней)», Вільнюс, 1978). Выдаў зборнікі дакументаў *«Інвентары Літвы XVII ст.»* (1962, з К.Яблонскісам), «Спрэчкі сялян і гараджан з упраўляючымі маёнткаў» («Lietuvos valstiečių ir miestelėnų ginčai su dvarų valdytojais», ч. 3, Вільнюс, 1968, з Р.Ясасам).

*Тв.*: Хроника Быховца // Летописи и хроники, 1973 г. М., 1974; Аренда земли вольными людьми в Литве, во второй половине XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Мн., 1964; Деревня и фольварок Жемайтии в XVIII в. // Там жа. Вильнюс, 1965; Летопись великих князей литовских // Тр. АН ЛитССР. Сер. А. 1957. Т. 2; Русские летописи XIV—XV вв. как источник по истории Литвы // Там жа; Русские историки о Великом Княжестве Литовском // Там жа. 1960. Т. 2; Галицко-Волынская Русь и проблема христианизации Литвы во второй половине XIV в. // Восточная Европа в исторической ретроспективе. М., 1999.

*Літ.*: Mečislovas Jučas: Bibliografinė rodyklė. Vilnius, 1977.





**Ябланоўскі** Юзаф Аляксандр (4.2.1711, в. Ціхомль Валынскага ваяв.—1.3.1777), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, гісторык, мецэнат. З магнацкага роду. Атрымаў дамашнюю адукацыю, падарожнічаў па Францыі, Італіі, Германіі, Галандыі, Англіі. Выбіраўся паслом на соймы, падтрымліваў кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага на трон Рэчы Паспалітай, пасля пагадзіўся з Аўгустам III. У 1740 ажаніўся з Каралінай Радзівіл, дачкой канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла, што дало яму магчымасць набыць маёнткі і пасады ў ВКЛ. Стольнік ВКЛ у 1744—55, ваявода новагародскі ў 1755—73. Аднавіў Навагародскі замак. У 1743 атрымаў ад імператара Карла VII княжацкі тытул. У 1768 асеў у Лейпцыгу. Падтрымліваў *Барскую канфедэрацыю,* пасля яе паражэння адмовіўся ад пасады новагародскага ваяводы, каб не ўдзельнічаць у санкцыяніраванні 1-га падзелу Рэчы Паспалітай. У Лейпцыгу стварыў навук. таварыства «Сацыетас Ябланавіяна» для заахвочвання і ўзнагароды навук. даследаванняў у розных галінах. Як мецэнат падтрымліваў М.*Догеля*, іншых гісторыкаў. Праводзіў архіўныя пошукі ў Рэчы Паспалітай і за мяжой. Аўтар прац па стараж. гісторыі славян і Польшчы: «Сарматская імперыя, сёння Польскае каралеўства...» (1742, 4-е выд. 1758), «Лех і Чэх...» (ч. 1—2, 1771, 3-е выд. 1777), зборніка біяграфій «Польскі музей, або Збор пісьменнікаў і выдаўцоў у Польскім каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім...» (т.



Ю.А.**Ябланоўскі**.

1—2, 1752—54), кн. «Геральдыка, гэта значыць збор рыцарскіх клейнодаў і ведамасць гербавых знакаў...» (1742, 3-е выд. 1752). У працы «Табліцы Ябланоўскага з генеалагічных дрэў славянскіх фамілій Польскага каралеўства...» (ч. 1—2, 1743—48) змясціў 80 генеалагічных табліц шляхецкіх родаў Польшчы і ВКЛ. Сааўтар і выдавец атласа Рэчы Паспалітай з 25 карт «Карта Польшчы...» (1772). Займаўся астраноміяй, матэматыкай, эканомікай. Чл. шматлікіх еўрапейскіх акадэмій і навук. таварыстваў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Яблонскіс** (Jablonskis) Канстанцінас (23.8.1892, г. Елгава, Латвія—28.7.1960), літоўскі гісторык. Акадэмік АН Літвы (1956), праф. (1941). Заслужаны дзеяч навукі Літвы (1959). Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1911—16). У 1929 удзельнічаў у заснаванні ў Каўнасе Таварыства гісторыі Літвы. З 1935 выкладаў у Каўнаскім, з 1944 у Вільнюскім ун-тах. Адначасова з 1941 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы (у крас.—чэрв. 1941 дырэктар). Аўтар кніг «Літоўскія словы ў канцылярскай мове старажытнай Літвы» («Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje», ч. 1, Каўнас, 1941), «Літоўская культура і яе дзеячы» («Lietuvių kultūra ir jos veikėjai», Вільнюс, 1973), «Гісторыя і яе крыніцы» («Istorija ir jos šaltiniai», Вільнюс, 1979). Адзін з аўтараў кніг «Нарысы гісторыі СССР» («Очерки истории СССР», Масква, 1955), «Гісторыя Літоўскай ССР» («Lietuvos TSR istorijos», т. 1, 1957). Падрыхтаваў зборнікі дакументаў «Інвентары Літвы XVI ст.» («XVI amžiaus Lietuvos inventoriai», Каўнас, 1934), *«Інвентары Літвы XVII ст.»* («Lietuvos inventoriai XVII a.», Вільнюс, 1962, з М.Ючасам), «Спрэчкі сялян і гараджан з упраўляючымі маёнткаў» («Lietuvos valstiečių ir miestelėnų ginčai su dvarų valdytojais», ч. 1, Вільнюс, 1959), «Помнікі літоўскага права. Т. 2. Суды над ведзьмамі ў Літве» («Lietuvos teisės paminklai. T. 2. Raganų teismai Lietuvoje», Вільнюс, 1987, з Р.Ясасам), «Перапіс валасцей Жамойці 1537—1538 гг.» («Žemaitijos valsčių surašymas 1537—1538 m.», Вільнюс, 2003). Рэдактар выдання «Статут Великого Кня-



жества Литовского 1529 года» (Мінск, 1960).

*Літ.*: Merkis V. Konstantinas Jablonskis. Kaunas, 1991; Анужыце Л. Канстанцінас Яблонскіс і Літоўская Метрыка // METRICIANA. Мн., 2003. Т. 2; Konstantinas Jablonskis ir istorija. Vilnius, 2005.

**Ягадынскі** (Ягадзінскі) Станіслаў Серафін (каля 1590—каля 1644), паэт, перакладчык, геральдык. Паходзіў з Жамойці або Гарадзеншчыны. У 1613—18 вучыўся ў Віленскай акадэміі, у 1619—20 — у Кракаўскім ун-це, у 1622 паступіў у Падуанскі ун-т. У 1624—25 суправаджаў каралевіча Уладзіслава ў вандроўках па Германії, Бельгії і Італіі. У 1625 служыў троцкаму кашталяну, нясвіжскаму ардынату Я.Е.Радзівілу. У 1627—28 пры двары кракаўскага біскупа М.Шышкоўскага. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. У Вільні выдаў панегірыкі, прысвечаныя Г.Валовічу, Халецкім. У Кракаве надрукаваў зборнік сатырычных эпіграм і вершаў «Маскі масленічныя і паўсюдныя...» (1619?), «Грош пад заслонай і аздобай крылаў караля птушак арла князёў Радзівілаў...» (1620, 3-е выд. 1705), «Дваранкі» (1621), «Каталіцкія песні...» (1638, 2-е выд. 1695). Пераклаў з італьянскай мовы лібрэта оперы «Вызваленне Руджыера з вострава Альцыны» Ф.Сарачынелі (1628), «Трыумф кахання» Ф.Петраркі (застаўся ў рукапісе). Аўтар першага падручніка каліграфіі «Каліграфія, або Канцылярыя» (да 1640?, 2-е выд. 1695). Склаў гербоўнік «Сумарыюш клейнотаў або гербаў дзяржавы і рыцарства Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага з розных аўтараў, а менавіта з Бельскага, з Папроцкага і запісаў С.С.Ягадзінскага сабраны» (1621).

*Літ.*: Парэцкі Я.І. Сатырычныя вершы С.Ягадзінскага // Беларуская літаратура. Мн., 1980. Вып. 8; Яковенко Н.Н. Новые данные к биографии С.С.Ягодыньского // Сов. славяноведение. 1981. № 1.

**Ягайла** (у праваслаўі Якаў, у каталіцтве Уладзіслаў; 1352?—1.6.1434), вялікі князь літоўскі [1377—81, 1382—92], кароль польскі [1386—1434]. Заснавальнік дынастыі *Ягелонаў*. Старэйшы сын вял. кн. *Альгерда* і цвярской князёўны *Ульяны Аляксандраўны*. З паліт. мэтамі Альгерд даваў дзецям ад гэтага (другога) шлюбу літ. імёны, хаця дзеці выхоўваліся ў праваслаўі і ў беларускамоўным асяроддзі. Я. быў прызначаны Альгердам спадчынным уладальнікам трона ВКЛ. Стаў вял. князем у маі 1377. Адразу ўступіў у канфлікт з уплывовым дзядзькам, князем троцкім *Кейстутам*, які намагаўся захапіць велікакняжацкі трон. У адрозненне ад Кейстута, які быў прыхільнікам барацьбы на 2 фронты — з крыжакамі і рус. княствамі, Я. намагаўся замацаваць тэрыторыі на ўсходзе нават за кошт часовай уступкі Жамойці крыжакам. У 1380 Я. заключыў з Залатой Ардой дагавор, накіраваны супраць Маскоўскага княства, і планаваў удзел у *Кулікоўскай бітве 1380*. Крыжакі выкарысталі дынастычную барацьбу і заключылі перамір'е ў 1379 з Кейстутам, а ў 1380 з Я. У 1381 Кейстут захапіў уладу ў Вільні, аднак у чэрв. 1382 Я. вярнуў сабе сталіцу, у час перагавораў захапіў Кейстута, які паводле загаду Я. быў задушаны ў Крэўскім замку. Я. абапіраўся на дапамогу Тэўтонскага ордэна, якому ў 1382 перадаў палову Жамойці і заключыў з ім перамір'е на 4 гады. Яго стрыечны брат *Вітаўт* увосень 1382 уцёк з Крэўскага замка да крыжакоў, з якімі заключыў саюз. У 1383 Я. вёў вайну з крыжакамі, адбіў у іх Коўна і Трокі. У 1383—84 вёў перагаворы з маскоўскім вял. кн. Дзмітрыем Іванавічам Данскім аб саюзе супраць крыжакоў, які меркавалася ўмацаваць шлюбам Я. з дачкой Дзмітрыя. Аднак гэты план не быў здзейснены. Я. паразумеўся з Вітаўтам, і той вярнуўся ў ВКЛ, атрымаўшы ад Я. Падляшша і Гародню. Дзеля паспяховай барацьбы супраць крыжакоў Я. заключыў пагадненне з польскімі панамі — *Крэўскую унію 1385*. У 1386 прыняў каталіцтва, ажаніўся з польскай каралевай *Ядвігай* і стаў каралём Польшчы (Уладзіслаў II). У 1387 здзейсніў хрышчэнне паводле каталіцкага абраду літоўцаў-язычнікаў і заснаваў *Віленскую рымска-каталіцкую епархію* для Літвы і Беларусі (для Жамойці пазней утворана ўласнае біскупства). Яго намаганні падпарадкаваць ВКЛ польскай кароне выклікалі незадаволенасць большай часткі бел. і літ. феадалаў, якіх узначаліў Вітаўт. Вайна вялася некалькі гадоў і скончылася *Востраўскім пагадненнем 1392*, паводле якога Вітаўт прызнаваўся пажыццёвым намеснікам караля і вял. князем літоўскім (фармальна з 1401). Улада Я. ў ВКЛ станавілася намінальнай, хаця ён меў тытул вярхоўнага князя (які амаль ніколі не ўжываўся). Пастаянныя канфлікты з Тэўтонскім ордэнам прывялі да стварэння ваеннага саюза паміж Польшчай і ВКЛ. Была заключана новая, *Віленска-Радамская унія 1401*. Саюзнікі атрымалі перамогу ў *Вялікай вайне 1409—11* з ордэнам. У вырашальнай *Грунвальдскай бітве 1410* галоўнакамандуючым быў Я. Пасля разгрому крыжакоў быў падпісаны *Тарунскі мір 1411*, паводле якога Жамойць перадавалася пажыццёва Вітаўту. *Гарадзельская унія 1413* замацавала саюзныя адносіны паміж Польшчай і ВКЛ. У Польшчы Я. пацвердзіў ранейшыя прывілеі шляхты (1388), гарантаваў недатыкальнасць шляхецкіх маёнткаў (1422), таксама было забаронена сумяшчаць адм. і судовыя пасады. Каб забяспечыць спадчыннасць трона для свайго старэйшага сына Уладзіслава, у 1430 Я. яшчэ раз пацвердзіў правы шляхты і забараніў арышт шляхціцаў. У 1400 аднавіў Кракаўскі ун-т. Я. вёў актыўную палітыку ў дачыненні да Свяшчэннай Рымскай імперыі, Чэхіі і Венгрыі. Выступаў супраць гусітаў, падтрымліваў ідэю уніі каталіцкай і правасл. цэркваў. На *Канстанцкім саборы 1414—18* дэлегацыя Я. дамагалася дыпламатычнага замацавання перамогі над Тэўтонскім ордэнам. Аднак канчатковае вырашэнне тэр. пытання адбылося пасля новай вайны з крыжакамі на тэр. ордэна. Паводле *Мельнскага міру 1422* Жамойць замацавана за ВКЛ, невял. тэрыторыі атрымала Польшча. У 1429 Я. падтрымаў план Вітаўта абвясціць ВКЛ каралеўствам, зыходзячы з разліку, што каралеўская карона пасля смерці Вітаўта пяройдзе да яго сына. Аднак пад націскам каралеўскай рады Я. адмовіўся ад падтрымкі гэтага плана. Пасля смерці Вітаўта ў 1430 Я. прызнаў абранне на велікакняжацкі трон у Вільні свайго брата *Свідрыгайлы*, што выклікала незадавальненне польскіх паноў. У 1431 адбыўся ваенны канфлікт: польскае войска спрабавала захапіць Валынь. У 1432 у выніку перавароту вял. князем літоўскім стаў *Жыгімонт Кейстутавіч*. Пачалася *феадальная вайна 1432—39*, у якой Я. падтрымаў Жыгімонта. Быў аднаўлены дзярж. саюз Польшчы і ВКЛ



(гл. *Гарадзенска-Троцкая унія 1432—33*). *Прывілеем 1432* і *прывілеем 1434* Я. і Жыгімонт ураўнавалі ў маёмасных і асабістых правах правасл. феадалаў і феадалаў-католікаў у ВКЛ. Пасля смерці Я. каралём Польшчы стаў яго сын Уладзіслаў III Варненьчык. Іл. гл. ў т. 1, с. 12.

*Літ.*: Prochaska A. Król Władysław Jagiełło. T. 1—2. Kraków, 1908; Kuczyński S.M. Król Jagiełło. 2 wyd. Warszawa, 1987; Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990; Chrzest Litwy. Lublin, 1990.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Ягелоны**, Ягайлавічы, галіна *Гедзімінавічаў*, нашчадкі вялікага князя літоўскага і караля польскага *Ягайлы* (Уладзіслава II), сына Альгерда і ўнука Гедзіміна. Панавалі ў ВКЛ у 1440—1572, у Польшчы ў 1434—1572, у Венгрыі ў 1440—44 і 1490—1526, у Чэхіі ў 1471—1526. Прадстаўнікі Я.:

Уладзіслаў III Варненьчык (31.10.1424, Кракаў—10.11.1444), старэйшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, кароль Польшчы з 1434 і Венгрыі з 1440 (Уласла I). Яго абранне на венгерскі трон гарантавала венграм дапамогу з боку Польшчы ў барацьбе з туркамі на Балканах. У 1443—44 арганізаваў крыжовы паход супраць туркаў і дамогся перамогі, але ў наступнай бітве пад Варнай пацярпеў паражэнне і загінуў (адсюль яго мянушка).

Казімір Андрэй Ягайлавіч (30.11.1427, Кракаў—7.6.1492), 3-і сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, вял. князь літоўскі з 1440 і кароль польскі з 1447; гл. *Казімір IV* Ягелончык.

Уладзіслаў II (1.3.1456, Кракаў—13.3.1516), старэйшы сын Казіміра IV, кароль Чэхіі з 1471 і Венгрыі з 1490 (Уласла II). У 1500 замацаваў прывілеі чэшскай шляхты, у Венгрыі — прывілеі магнатаў, у 1515 прызнаў спадчыннае права на троны Чэхіі і Венгрыі за аўстрыйскімі Габсбургамі ў выпадку сканчэння там дынастыі Я.

Казімір (3.10.1458, Кракаў—4.3.1484), 2-і сын Казіміра IV, каталіцкі святы; гл. *Казімір*.

Ян I Ольбрахт (27.12.1459, Кракаў—17.6.1501), 3-і сын Казіміра IV, кароль Польшчы з 1492. Адначасова яго брат Аляксандр быў абраны вял. князем ВКЛ, і унія Польшчы і ВКЛ была спынена. У 1496 выдаў Пётркаўскі статут, які прымацаваў сялян да зямлі і зацвердзіў правы шляхецкіх сеймаў.

Аляксандр Казіміравіч (5.8.1461, Кракаў—19.8.1506), 4-ы сын Казіміра IV, вял. князь літоўскі з 1492 і кароль польскі з 1501; гл. *Аляксандр*.

Жыгімонт (1.1.1467—1.4.1548), 5-ы сын Казіміра IV, вял. князь літоўскі і кароль польскі з 1506; гл. *Жыгімонт I* Стары.

Ян (8.1.1499, Кракаў—18.2.1538), пазашлюбны сын Жыгімонта I Старога, біскуп віленскі ў 1519—36 і пазнанскі з 1536; гл. *Ян*.

Ганна (23.7.1503, г. Буда, Венгрыя—27.1.1547), дачка Уладзіслава II, апошняя прадстаўніца чэшска-венгерскай галіны Я. З 1521 замужам за Фердынандам Габсбургам (з 1526 кароль Чэхіі і Венгрыі, з 1556 германскі імператар). Дзякуючы гэтаму шлюбу Габсбургі набылі правы на чэшскі і венгерскі троны.

Людовік II (1.7.1506—29.8.1526), сын Уладзіслава II, кароль Чэхіі і Венгрыі з 1516 (Лаяш II). З яго смерцю ў бітве з туркамі пад Мохачам дынастыя Я. у Чэхіі і Венгрыі спынілася.

Ядвіга (25.3.1513, Познань—7.2.1573), дачка Жыгімонта I Старога. З 1535 замужам за брандэнбургскім курфюрстам Іахімам II Гогенцолернам.

Ізабела (18.1.1519—15.9.1559), дачка Жыгімонта I Старога. З 1539 замужам за каралём Венгрыі Янашам I Запальяі.

Жыгімонт Аўгуст (1.8.1520, Кракаў—7.7.1572), сын Жыгімонта I Старога і Боны, вял. князь літоўскі (фармальна з 1529, фактычна з 1544) і кароль польскі з 1548; гл. *Жыгімонт II Аўгуст*. Апошні мужчынскі прадстаўнік дынастыі Я.

Соф'я (13.7.1522, Кракаў—28.5.1575), дачка Жыгімонта I Старога і Боны. З 1556 замужам за браўншвейгвольфенбютэльскім герцагам Генрыхам.

Ганна (18.10.1523, Кракаў—9.9.1596), дачка Жыгімонта I Старога і Боны. З 1576 замужам за *Стафанам* Баторыем (шлюб з ёю быў умовай абрання яго на трон Польшчы і ВКЛ).

Кацярына (1.11.1526, Кракаў—16.9.1583), дачка Жыгімонта I Старога і Боны. З 1562 замужам за фінляндскім герцагам Янам Вазам (з 1568 кароль Швецыі Ян III). Іх сын Жыгімонт у 1587 быў выбраны на трон Польшчы і ВКЛ, адначасова ў 1592—99 быў каралём Швецыі; гл. *Жыгімонт III* Ваза.

Па жаночых лініях Казімір IV Ягелончык з'яўляецца продкам усіх цяперашніх еўрапейсих каралёў і пануючых князёў, а таксама тых дынастый, што страцілі троны ў выніку рэвалюцый у 19 і 20 ст., і шматлікіх арыстакратычных сем'яў.

*Літ.*: Wolff J. Ród Gedymina. Kraków, 1886; Genealogisches Handbuch des Adels: Fürstliche Hauser. Bd. 1—13. Limburg, 1951—87; Isenburg K.W. Stammtafeln zur Geschichte der europaischen Staaten. Bd. 1—2. 2 Aufl. Marburg, 1953; Genealogia. Warszawa, 1959; Wdowiszewski Z. Genealogia Jagiellonów. Warszawa, 1968; Duczmal M. Jagiellonowie. Kraków, 1996.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Ядвіга** (15.2.1374, г. Буда, Венгрыя—17.7.1399), каралева польская [1384—99], жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага *Ягайлы*. Малодшая дачка караля Венгрыі і Польшчы Людвіка I. У 1378 заручана з Вільгельмам Габсбургам, сынам аўстрыйскага кн. Леапольда III, і выехала ў Вену. Пасля смерці старэйшай сястры Кацярыны (1379) адклікана назад для падрыхтоўкі заняцця венгерскага трона. Аднак пасля смерці Людвіка I у 1382 польскія паны дамагліся, каб Я. атрымала польскі трон (Людвік завяшчаў яго дачцэ Ганне), і 15 або 16.10.1384 яна каранавана ў Кракаве. Польскія паны вырашылі скасаваць мяркуемы шлюб Я. з Вільгельмам, каб забяспечыць незалежнасць Польшчы ад Габсбургаў, і арганізаваць яе шлюб з вял. князем літоўскім Ягайлам, што, як меркавалася, прывядзе да ўключэння ВКЛ у склад Польскага каралеўства і хрышчэння язычніцкай Літвы ў каталіцтва. Была заключана *Крэўская унія 1385*. 18.2.1386 у Кракаве адбыўся шлюб Я. з Ягайлам. Я. атрымала ад яго ў якасці вена Магілёўскую і інш. воласці на Беларусі, Куяўскую і Рускую (Львоўскую) землі. Аказала значную дапамогу ў хрышчэнні Літвы. У 1397 пры Пражскім ун-це заснавала бурсу для літ. клірыкаў. Для падрыхтоўкі царк. уніі паміж правасл. і каталіцкай цэрквамі заснавала разам з Ягайлам у Кракаве кляш-

тар славян-бенедыкцінцаў з Прагі, садзейнічала ўмацаванню пазіцый *Кіпрыяна* як мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі і падтрымлівала яго захады па заключэнні уніі. Завяшчала значныя сродкі на аднаўленне Кракаўскага ун-та. Садзейнічала ў 1387 далучэнню да Польшчы Галіцкай зямлі, занятай венграмі. Выступала за мірнае ўрэгуляванне канфлікту з Нямецкім ордэнам, вяла перагаворы пра вяртанне Польшчы Добжынскай зямлі, што, аднак, не прынесла поспеху. Памерла хутка пасля нараджэння ў яе дачкі. Адразу пасля смерці Я. начала шанавацца як святая, афіцыйна кананізавана ў 1997.

*Літ.*: Rydel L. Królowa Jadwiga. Warszawa, 1984; Kluz W. Jadwiga królowa Polski. Warszawa, 1987; Wyrozumski J. Królowa Jadwiga: Między epoką piastowską i jagiellońską. Kraków, 1997.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ядкоўскі** (Jodkowski) Юзаф (20.12. 1890, г. Гродна—2.1.1950), археолаг і нумізмат. Скончыў Гродзенскую гімназію, Маскоўскі археалагічны ін-т (1912). Працаваў у Румянцаўскім музеі ў Маскве, быў кансерватарам па Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ. Выступаў за захаванне помнікаў старажытнасці, у т.л. Сынковіцкай царквы, Мірскага замка. Яго намаганнямі былі захаваны іканастас 17 ст. ў Супраслі, касцёл з фрэскамі ў Гарадзішчы каля Пінска. У 1919 урадам Польшчы зацверджаны кіраўніком бюро дзярж. апекі над помнікамі гісторыі і культуры ў Гродне і Гродзенскім пав., стварыў Гродзенскі музей, хавальнікам якога быў да 1936. Арганізаваў выданне штогодніка «Музей у Гродне» («Muzeum w Grodnie»). З канца 1930-х г. працаваў у Варшаве, з 1944 у Кракаве, хавальнік Нац. музея (з 1945), старшыня Варшаўскага нумізматычнага таварыства, рэдактар часопіса «Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne» («Нумізматычна-археалагічныя ведамасці»). Правёў археалагічныя раскопкі ў Ваўкавыску (1925), на Замкавай Гары ў Гродне (1932—33), дзе выявіў княжацкі церам, рэшткі 2 мураваных храмаў (пазней атрымалі назвы Ніжняя і Верхняя цэрквы). У 1935 даследаваў Каложскую царкву, якую датаваў 11 ст. Засталася нявыдадзенай шматтомная праца Я. «Польскія рэліквіі ў Расіі».

*Тв.*: Записка о Сынковичской церкви // Древности: Тр. комиссии по сохранению древних памятников... М., 1912. Т. 4; Замок в Мире // Там жа. М., 1915. Т. 6; Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Там жа; Grodno. Wilno, 1923 Grodzisko Wołkowyskie. Grodno, 1925; Grodno i okolice w zaraniu dziejów Litwy i Rusi nad Niemnem. Grodno, 1928; Ulice grodzieńskie w świetle historji i topologji. Grodno, 1931; Grodno wczesnośrednio-wieczne... Warszawa, 1934; świątynia warowna na Kołoży w Grodnie. Grodno, 1936; Sprawozdanie z prac na Starym zamku w Grodnie, 1933—1937. Grodno, 1938; Pieczęcie wileńskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Rocznik Tow. Przyj. nauk w Wilnie. 1909. T. 3; Pieczęcie polskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne. 1910. T. 2; Okolice Grodna pod względem archeologicznym // światowid. 1912. T. 10; O znaku na cegle «teremu» książęcego w Grodnie. Kraków, 1934; Pieczęcie ruskie z XI—XII w., znalezione w Grodnie i Drohiczynie // Przegląd Historyczny. 1948. T. 37.

*Літ.*: Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства: Матэрыялы навук.-практ. канф. Гродна, 1990; Бломбергава М.М. Лёс Юзафа Ядкоўскага падчас першай сусветнай вайны ў святле лістоў да Вандаліна Шукевіча (1913—1915 гг.) // Гарадзенскія запісы. Гародня, 1996. Вып. 2; Швед В.В. Штрыхі да партрэта Ю.Ядкоўскага // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1995; Snieżko A. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział: Wspomnienie o Józefie Jodkowskim. Białystok, 2000.

***Аляксандр Госцеў, Вячаслаў Швед.***

**Якабсон** Еўна, гадзіннікавы майстар і механік 18 ст. Быў адным з рамеснікаў, запрошаных у Нясвіж М.К.Радзівілам *Рыбанькам*. У 1760-я г. сканструяваў лічыльную машыну, якая дазваляе складаць і аднімаць лікі ад 1 да $10^9$, множанне ажыццяўляецца паслядоўным складаннем лічбаў, дзяленне (з астаткам ці без) — паслядоўным адніманнем. Прынцып дзеяння машыны заснаваны на класічнай схеме зубчастых перадач. Выкарыстоўваецца арыгінальны спосаб набору (уводу) лікаў з дапамогай спец. ключоў і фіксацыі прамежкавых вынікаў вылічэння. Машына Я. захоўваецца ў Музеі імя М.В.Ламаносава ў С.-Пецярбургу.


Лічыльная машына Е.**Якабсона**.

*Літ.*: Майстров Л.Е., Ченакал В.Л. Старейшая счетная машина // Вопр. истории естествознания и техники. 1969. Вып. 1 (26); Апокин И.А., Майстров Л.Е. Развитие вычислительных машин. М., 1974; Гутер Р.С., Полунов Ю.П. От абака до компьютера. М., 1975.

**Якавенка** (Яковенко) Наталля Мікалаеўна (н. 16.10.1942, в. Апрэлеўка Віцязеўскага р-на Кіраваградскай вобл., Украіна), украінскі гісторык. Д-р гіст. навук (1994), праф. (2003). Скончыла Львоўскі ун-т (1963). У 1970—81 працавала ў Цэнтр. дзярж. гіст. архіве Украіны ў Кіеве, у 1981—87 — у Кіеўскім ун-це, у 1987—91 — у Ін-це гісторыі АН Украіны, у 1991—96 — у Ін-це ўкр. археаграфіі і крыніцазнаўства НАН Украіны, адначасова ў 1993—2002 — у Ін-це ўсх.-еўрапейскіх даследаванняў НАН Украіны (да 1996 намеснік дырэктара), з 1992 выкладае ў Нац. ун-це «Кіева-Магілянская акадэмія» (з 2002 заг. кафедры гісторыі). Гал. рэдактар альманахаў «Український гуманітарний огляд» (з 1999) і «Київська академія» (з 2005). З 1997 старшыня Таварыства даследчыкаў Цэнтр.-Усх. Еўропы. Даследуе гісторыю Украіны 16—17 ст., сац. гісторыю эліт, гісторыю ўяўленняў і ідэй, інтэлектуальную гісторыю, гістарыяграфію гіс-



торыі Украіны 16—17 ст. Удзельнічала ў выданні кніг «Каталог документів з історії Києва 15—19 ст.» (Кіеў, 1982), «Торгівля на Україні, XIV—середина XVII ст.: Волинь і Наддніпрянщина: Збірник документів і матеріалів» (Кіеў, 1990), «Книга Київського підкоморського суду (1564—1644)» (Кіеў, 1991), «Селянський рух на Україні, 1569—1647» (Кіеў, 1993), «Каталог стародруків Центрального державного історичного архіву у м. Києві» (Кіеў, 1999), «Руська (Волинська) Метрика: Регести документів Коронної канцелярії для українських земель (Волинське, Київське, Брацлавське, Чернігівське воєводства). 1569—1673» (Кіеў; Варшава, 2002), «Апісанне Украіны» Г.Л. дэ Баплана (Масква, 2004). Прэмія імя М.Грушэўскага НАН Украіны (1996).

*Тв.*: Латинська мова. Київ, 1993 (у сааўт.; 3 выд. 2005); Українська шляхта з кінця 14 до середини 17 ст.: (Волинь і Центральна Україна). Київ, 1993; Нарис історії України з найдавніших часів до кінця 18 століття. Київ, 1997; Historia Ukrainy od czasów najdawniejszych do końca XVIII wieku. Lublin, 2000; Паралельний світ: Дослідження з історії уявлень та ідей в Україні 16—17 століть. Київ, 2002; Нарис історії середньовічної та ранньомодерної України. Київ, 2005.

**Якаў**, полацкі епіскап пач. 14 ст. Вядомы паводле сваёй граматы ў Рыгу 1309. Пасланне Я. прысвечана ўрэгуляванню і юрыд. афармленню гандлёвых адносін паміж Полацкам і Рыгай пасля колькігадовага (відаць, з 1304) іх пагаршэння. Я. прасіў рыжан прывезці жыта ў Полацк з-за неўраджаю і голаду, якія ахапілі рус. і, магчыма, бел. землі. Грамата Я. сведчыць, што ў пач. 14 ст. Полацк быў феадальна-тэакратычнай рэспублікай на чале з епіскапам, якая прызнавала вярхоўную ўладу вял. князя літоўскага Віценя (у грамаце Я. называе яго сваім сынам).

*Літ.*: Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977—80; Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896.

***Васіль Варонін.***

**Якімовіч** Юрый Аляксандравіч (13.10.1946, Мінск—7.2.1994), беларускі гісторык архітэктуры, педагог. Канд. архітэктуры (1979). Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1969). Працаваў у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (з 1969), выдаўніцтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» (з 1980, заг. рэдакцыі). З 1986 выкладаў у Віцебскім педагагічным ін-це (дацэнт з 1988). Даследаваў гісторыю архітэктуры Беларусі, творчасць мастакоў 19 ст. (Н.Орды, Ю.Пешкі, Дз.Струкава і інш.). Вылучыў школы палескага драўлянага дойлідства, паказаў асаблівасці іх развіцця ў 17—19 ст. Адзін з аўтараў «Гісторыі мастацтва народаў СССР» («История искусства народов СССР», т. 9, Масква, 1982), «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, Мінск, 1984—88), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1, Мінск, 1987). Аўтар рэканструкцый сядзібна-палацавых і замкавых пабудоў 16—17 ст.

*Тв.*: Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст. Мн., 1978; Беларуская архітэктура ў малюнках Напалеона Орды // Мастацтва Беларусі. 1983. № 7; З віленскай калекцыі // Там жа. 1989. № 11; Каштоўны дакумент па гісторыі беларускай графікі і архітэктуры XVIII ст. // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985 (з Р.В.Баравым); Деревянное зодчество Белоруссии // Дерево в архитектуре и скульптуре славян: Пер. с фр. М., 1987; Зодчество Белоруссии XVI—середины XVII в.: Справ. пособие. Мн., 1991.

**Якуб з Калінаўкі** (Каліноўскі; ?—каля 1583), радыкальны сацыяльны мысліцель-утапіст, ідэолаг левай, плебейска-сялянскай плыні рэфармацыйнага руху на Беларусі. Паходзіў з сял. або дробнашляхецкай сям'і з Падляшша. У 1560-я г. служыў прапаведнікам у антытрынітарскім зборы ў маёнтку магната-кальвініста, канцлера ВКЛ А.*Валовіча*. У 1568 удзельнічаў у антытрынітарскім сінодзе ў Іўі, дзе разам з *Паўлам з Візны* палемізаваў з кіраўніком правага крыла антытрынітарызму С.*Будным* па пытаннях свецкай улады і валодання нявольнай чэляддзю, прыгоннымі. У 1569 з групай бел. прыхільнікаў арганізаваў разам з М.*Чаховіцам* у г. Ракаў (Люблінскае ваяв.) прымітыўна-камуністычную суполку, сутнасцю якой была маёмасная і сац. роўнасць, абавязак усіх членаў «зарабляць сабе на хлеб» сваімі рукамі. Услед за *Пятром з Ганязі* абгрунтаваў ідэю сац. і нац. роўнасці і, спасылаючыся на Біблію, сцвярджаў, што Бог стварыў увесь род чалавечы з адной крыві, таму ўсе людзі браты і ніхто ні над кім не мае права панаваць. «Не можа быць сярод сапраўдных хрысціян розніцы паміж яўрэем і элінам, нявольнікам і вольным, але ж усе павінны быць роўныя... Нельга назваць хрысціянскім грамадства, дзе людзі валодаюць людзьмі, а брат пануе над братам і загадвае яму... Ёсць толькі адзін пан над усімі намі, гэта Ісус Хрыстос, а ты хочаш, каб было шмат паноў», — звяртаўся ён да Буднага. Крыніцай сац. зла лічыў прыватную ўласнасць, быў прыхільнікам ненасільнага пераўтварэння наяўнай сац. рэчаіснасці праз маральнае самаўдасканаленне чалавека, мірны байкот існуючых грамадскіх і дзярж. устаноў.

*Літ.*: Budny S. O urzędzie miecza używającem. Warszawa, 1932; Literatura ariańska w Polsce w XVI w.: Antologia. Warszawa, 1959; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. (Вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970.

***Сямён Падокшын.***

**Якубоўскі** (Jakubowski) Ян Феликс (20.11.1874. г. Рыга—4.3.1938), гісторык, архівіст. Вучыўся ў Маскоўскім і Дэрпцкім ун-тах. Працаваў выкладчыкам у Варшаве (у т.л. ў Таварыстве навук. курсаў і Педагагічных курсах Мілкоўскага, у 1924—25 — у Варшаўскім ун-це). Адначасова ў 1918—32 супрацоўнічаў з архіўнымі ўстановамі. У 1923 эксперт падчас рэвіндэкацыі архіўных збораў з СССР. Даследаваў гісторыю ВКЛ.

*Тв.*: Opis Księstwa Trockiego z r. 1387: Przyczynek do badań nad ustrojem Litwy przedchrześcijańskiej // Przegląd Historyczny. 1907. T. 5, z. 1; Z dziejów Księcia Sierotki: Geograf polski Tomasz Makowski // Odgłosy: Księga zbiorowa wydana staraniem i nakładem Stowarzyszenia Dom Polski w Moskwie. Moskwa, 1916; Studia nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią Lubelską. Warszawa, 1912; W sprawie mapy Litwy Tomasza Makowskiego (1613) // Przegląd Geograficzny. 1918—19. R. 1; Z zagadnień unji polsko-litewskiej // Przegląd Historyczny. 1919—20. T. 22; Dzieje Litwy w zarysie. Warszawa, 1922; Tomasz Makowski, sztycharz i kartograf nieświeski: (przyczynek do dziejów sztuki i nauki na Litwie). Warszawa, 1923; Czy istnieli kniaziowie Nieświescy? // Ateneum Wileńskie. 1923. R.1, № 1; Powiat grodzieński w w. XVI // Prace Komisji Atlasu historycznego Polski. Kraków, 1935. Z. 3; Przykład zmienności granic administracyjnych na Litwie w w. XVI // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10.

*Літ.*: Archeion. Warszawa, 1938—39 (змешчана бібліяграфія прац Я.).



**ялаўшчына**, феадальны падатак у ВКЛ у 15—16 ст. на ўтрыманне вялікага князя і яго двара. Разнавіднасць *стацыі*, якая існавала ў падзвінскіх і падняпроўскіх валасцях. Збіралася ялавічынай, з канца 15 ст. пераводзілася на грошы. Пазней зллілася з іншымі грашовымі падаткамі.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 111—113.

**Ялецкае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Цэнтр — г. Ялец (цяпер горад, цэнтр Ялецкага р-на Ліпецкай вобл., Расійская Федэрацыя). Утварылася ў апошняй трэці 14 ст. пасля падзелу *Казельскага княства*. Родапачынальнікам ялецкіх князёў стаў сын казельскага кн. Івана Цітавіча Фёдар. Княства займала тэрыторыю на 3 ад р. Дон уздоўж яго прытока Сасны. Паўн. рубяжы княства даходзілі да нізоўяў прытоку Дона р. Красівая Меча. На Пд яго тэрыторыя даходзіла да вусця р. Варонеж. На 3, прыкладна ў раёне Ліўнаў, княства межавала з ВКЛ. У 1363 літ. войскі захапілі г. Коршаў на тэрыторыі Я.к., але далейшыя наступствы гэтай падзеі невядомы. Відаць, пасля маскоўскага паходу зімой 1379—80 у напрамку Трубчэўска і Старадуба ўплыў ВКЛ тут быў заменены на кантроль Масквы. Невыпадкова, што ў 1380 ялецкі кн. Фёдар Іванавіч удзельнічаў у Кулікоўскай бітве ў якасці ваяводы серпухаўскага кн. Уладзіміра Андрэевіча. У канцы 14 ст. (да 1389) ялецкія князі трапілі ў залежнасць ад Разані. Пасля паходу сярэднеазіяцкага заваёўніка Цімура (Тамерлана) да Яльца ў 1395 і шэрагу татарскіх нападаў пач. 15 ст. Я.к. прыйшло ў заняпад. У 1414, калі татары ваявалі разанскія і ялецкія землі, забілі аднаго з мясц. князёў і зруйнавалі Ялец, астатнія ялецкія князі вымушаны былі з'ехаць у Разанскую зямлю. Пасля гэтага княства больш не ўпамінаецца. Яго абшар, які стаў часткай *Поля*, выкарыстоўвалі татары Вял. Арды ў якасці качэўяў. Каля 1463 ялецкія землі фармальна былі далучаны да Вял. княства Маскоўскага. Такім чынам, ВКЛ і яго саюзнік Вял. княства Разанскае падзялілі ялецкія ўладанні. У маскоўска-разанскім дагаворы 1483 Ялец з навакольнымі мясцінамі быў названы вотчынай Івана III. Толькі ў 1592 горад быў адноўлены на старым месцы пад маскоўскай уладай, пасля ўтвораны Ялецкі павет.

*Літ.*: Загоровский В.П. Исследования и заметки по исторической географии Центрального Черноземья XVI в. // Историческая география Черноземного центра России: (Дооктябрьский период). Воронеж, 1989; Его ж. История вхождения Центрального Черноземья в состав Российского государства в XVI веке. Воронеж, 1991; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Тропин Н.А. Елецкая земля в XII—XV вв. Елец, 2002.

*Віктар Цемушаў.*

**Ямантавічы**, княжацкі род у ВКЛ, нашчадкі старажытных літоўскіх удзельных князёў. Паводле легенды, вялі радавод ад кн. Гедруса. Найб. вядомыя:

Ямант Тулунтавіч (у праваслаўі Васіль; ?—12.8.1399), першы вядомы прадстаўнік роду. У 1390 суправаджаў кн. Вітаўта ў Прусію. У 1396 яму разам з Васілём Барэйкавічам Вітаўт даў у кіраванне Смаленскае княства; пасля трымаў і Клецкае княства. У 1398 падпісаў мірны дагавор ВКЛ з Нямецкім ордэнам. Загінуў у *бітве на Ворскле 1399* з татарамі. Меў сыноў Сямёна (Сеньку) і Міхаіла.

Сямён Ямантавіч, сын Яманта Тулунтавіча. Падпісаў акт *Віленска-Радамскай уніі 1401* паміж ВКЛ і Польшчай, *Тарунскі мір 1411* з крыжакамі.

Сямён (?—да 1540), сын Яшкі, унук Міхаіла Ямантавіча. Ад маёнтка Падбярэззе каля Друцка празываўся Ямантавічам-Падбярэскім. Валодаў таксама мяст. Бачэйкава, часткай воласці Басея. З 1522 намеснік (дзяржаўца) кернаўскі, трымаў Азярышчанскую і Усвяцкую вол. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 19 коннікаў. Не меў дзяцей, таму пакінуў маёнткі сястры Ульяне, сыны якой ад шлюбу з Яцкам Сенькавічам Рыгор і Іван узялі прозвішча Падбярэскія. Нашчадкі Рыгора ўзялі прозвішча і тытул князёў Друцкіх-Падбярэскіх.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

*Валерый Пазднякоў.*

**Ям-Запольскае перамір'е 1582**, 10-гадовае перамір'е паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, якім скончылася *Інфлянцкая вайна 1558—82*. Падпісана 15.1.1582 у в. Ківерава Гара каля Яма Запольскага на Пд ад Пскова. Перагаворы паміж дэлегацыямі Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы пачаліся 13.12.1581 і закончыліся 6.1.1582. З боку Рэчы Паспалітай у іх удзельнічалі ваявода брацлаўскі Я.М.Збаражскі, маршалак надворны ВКЛ А.Радзівіл, пісар ВКЛ М.Гарабурда, з боку Маскоўскай дзяржавы — кн. Дз.П.Ялецкі, Р.В.Алфер'еў, дзяк М.М.Верашчагін; старшынстваваў папскі легат А.*Пасевіна*. Гал. спрэчкі на перагаворах разгарэліся з-за Інфлянтаў (Лівоніі). Маскоўская дзяржава імкнулася захаваць тут за сабой хаця б г. Дорпат. Цар Іван IV, імкнучыся хутчэй перакінуць свае сілы супраць Швецыі, каб адваяваць Нарву і інш. эстонскія гарады, урэшце адмовіўся ад заваяваных інфлянцкіх зямель. Дэлегацыя Рэчы Паспалітай хацела ўтрымаць г. Себеж і інш. занятыя гарады. Паводле перамір'я Маскоўская дзяржава адмаўлялася на карысць Рэчы Паспалітай ад заваяваных раней інфлянцкіх і бел. зямель і ад уладанняў сваіх васалаў і саюзнікаў: 40 гарадоў у Інфлянтах, Курляндыі, Полацкага ваяв. і Веліжа з акругай. Рэч Паспалітая вяртала Івану IV занятыя ў апошнія гады вайны пскоўскія, наўгародскія і цвярскія землі. Узаемная перадача замкаў і абмен ваеннапалоннымі павінны былі адбыцца на працягу 8 тыдняў. Рэч Паспалітая адмовілася ад накладання кантрыбуцыі на Маскоўскую дзяржаву і ад іншых кампенсацый страт ад вайны, на што першапачаткова прэтэндавала. Яна таксама адмовілася ад вызначэння прыналежнасці прыбалтыйскіх гарадоў, падлеглых рус.-шведскім перагаворам (скончыліся падпісаннем Плюскага перамір'я 1583). Кампрамісна было вырашана спрэчнае пытанне аб царскім тытуле Івана IV. У рус. тэксце дагавора тытул «цар» прысутнічаў, у польскім ён не ўпамінаўся. У рус. экзэмпляры Іван IV іменаваўся таксама як «уладар лівонскі і смаленскі», у польскім «уладаром Інфлянтаў» названы кароль польскі і вял. князь літоўскі Стафан Баторый, а тытул «смаленскі» не належаў нікому. У дадатак да дагавора летам 1582 падпісаны яшчэ 3 пратаколы. Яны вызначалі ўмовы абмену і выкупу ваеннапалонных, прадугледжвалі ненапад бакоў на спрэчныя інфлянцкія і наўгародскія гарады да

скончэння перамір'я. Перамір'е было ратыфікавана ў Маскве царом Іванам IV і Збаражскім. Пацвярджалася і прадаўжалася ў 1584, 1585, 1586, 1587, 1591, 1601.

*Літ.*: Успенский Ф. Переговоры о мире между Москвой и Польшей // Зап. Новороссийского ун-та. Одесса, 1887. Т. 45; Новодворский В. Борьба за Ливонию между Москвою и Речью Посполитою (1570—1582). СПб., 1904; Королюк В.Д. Ливонская война. М., 1954; Флоря Б. Россия, Польша и конец Ливонской войны // Сов. славяноведение. 1972. № 2.

***Уладзімір Снапкоўскі.***

**Ян** (Ян з князёў літоўскіх; Януш; 8.1.1499, г. Кракаў—18.2. 1538), віленскі біскуп. Пазашлюбны сын караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта I Старога і Кацярыны Охстат Цельнічанкі (паходзіла з



Пячатка біскупа віленскага **Яна**. 1525.

Цельніцаў, што ў Маравіі). Выхоўваўся ў Кракаве і Глогаве. У 1512 кракаўскі, пазнанскі і плоцкі канонік. У 1515 вывучаў у Балонскім ун-це права. Працаваў у каралеўскай канцылярыі. Пасля смерці ў 1519 віленскага біскупа Войцеха Радзівіла папа Леў X па просьбе Жыгімонта I прызначыў Я. кіраўнікам віленскага біскупства. Аднак паўнату ўлады біскупа ён атрымаў толькі ў 1531 пасля канчатковага святарскага пасвячэння. Пасля прыезду ў Вільню стаў фактычным намеснікам вял. князя ў ВКЛ (1519—36). Актыўна ўдзельнічаў у кананізацыйным працэсе каралевіча *Казіміра* і стварэнні Статута ВКЛ 1529. Пры яго дапамозе Ф.*Скарына* заснаваў у Вільні друкарню, а з сярэдзіны 1520-х г. стаў яго сакратаром. Праводзіў палітыку бацькі ў адносінах абмежавання ўлады свецкіх магнатаў. Для ўмацавання ўлады дынастыі Ягелонаў распрацаваў разам з Юрыем Радзівілам праект прызнання ВКЛ каралеўствам (1526), аднак польскія магнаты не дапусцілі гэтага. 19.5.1536 з-за рознагалоссяў з літ. магнатамі Я. адмовіўся ад віленскага біскупства (прыкладна ў той час пакінуў Вільню і Скарына). З сак. 1537 біскуп пазнанскі.

**Ян II Казімір** Ваза (у ВКЛ Ян I Казімір; 22.3.1609, Кракаў—16.12.1672), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1648—68]. Сын *Жыгімонта III* Вазы. Намінальна і спадчынна да 1660 насіў тытул караля Швецыі. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, у Трыццацігадовай вайне 1618—48. У 1634—45 чл. ордэна езуітаў, з 1646 кардынал. Пасля смерці старэйшага брата, караля *Уладзіслава IV*, вызвалены рымскім папам з духоўнага звання. 20.11.1648 на сойме абраны каралём і вял. князем пры дапамозе групоўкі магнатаў і шляхты, прыхільнікаў пагаднення з казакамі, што паўсталі на Украіне, з намерам пачаць вайну хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі і Крымскага ханства. Напачатку вёў памяркоўную палітыку ў дачыненні да казакоў, бо разлічваў на пагадненне з Б.*Хмяльніцкім*, аднак гэта палітыка не дала вынікаў, і вайна на Украіне працягвалася. У 1649 і 1651 Я. II К. узначальваў паходы на Украіну, заключыў Збораўскі і Белацаркоўскі мірныя дагаворы. У час яго панавання адбыліся найб. разбуральныя войны: *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночная вайна 1655—60*. З казацкай старшынай Украіны быў падпісаны *Гадзяцкі дагавор 1658*, паводле якога Украіна ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай як 3-я ўдзельніца федэрацыі (скасаваны праз год). У гэты час Я. II К. змяніў палітыку, адмовіўшыся ад саюза з германскім імператарам, які не дапамагаў Рэчы Паспалітай. Кароль пачаў арыентавацца на Францыю. Вайна з Расіяй скончылася *Андросаўскім перамір'ем 1667*, паводле якога Масква атрымала Смаленскае ваяв. і Левабярэжную Украіну, а таксама Кіеў. Каб умацаваць цэнтр. ўладу, Я. II К. распрацаваў план рэформы дзярж. ладу Рэчы Паспалітай. Ён прапаноўваў выбіраць новага караля не пасля смерці папярэдніка, а пры жыцці, каб не было безуладдзя ў час міжкаралеўя. Аднак сойм 1660 і сеймікі 1661 выказаліся супраць рэформы.



**Ян II Казімір**. Мастак Д.Шульц Малодшы. Да 1659.

Супраць караля склалася апазіцыйная групоўка на чале з гетманам польным каронным Е.С.Любамірскім. Яна паднясла *рокаш Любамірскага 1665—66*. Напачатку ракашане перамаглі каралеўскае войска, аднак пасля былі вымушаны капітуляваць. Суд прыгаварыў Любамірскага да баніцыі (выгнання з краіны), але спроба рэформ была сарвана. Пасля рокашу зрывы соймаў і соймікаў сталі частай з'явай. Агульны гаспадарчы заняпад Рэчы Паспалітай, няўдачы ў войнах, аслабленне міжнар. становішча дзяржавы, напружаныя адносіны з магнатамі і шляхтай, смерць энергічнай і актыўнай у палітыцы каралевы Марыі Людвікі (1667) прывялі да таго, што 16.9.1661 Я. II К. адрокся ад трона і назаўсёды выехаў у Францыю. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 20.

*Літ.*: Witusik A.A. Elekcja Jana Kazimierza w 1648 roku. Lublin, 1965; Czermak W. Ostatnie lata Jana Kazimierza. Warszawa, 1972; Wasilewski T. Jan Kazimierz. Warszawa, 1985; Грыцкевіч А. Ян Казімір Ваза (1609—1672), кароль Польшчы ад 1648 г., вялікі князь літоўскі // Культура. 1993. 20 крас.; Яго ж. Ян Казімір Ваза // Скрыжалі «Спадчыны». Мн., 1996. Вып. 2.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Ян III** Сабескі (у ВКЛ Ян II; 17.8.1629, замак Алеска, Рускае ваяв.— 17.6.1696), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1674—96]. Паходзіў са стараж. шляхецкага роду герба

«Яніна». Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, падарожнічаў па Еўропе. Удзельнічаў у вайне супраць казакоў Б.Хмяльніцкага. З 1653 палкоўнік, ваяваў супраць шведаў у *Паўночнай вайне 1655—60*, супраць рас. ваявод і казакоў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Некалькі разоў выбіраўся паслом на соймы. Быў прыхільнікам караля Яна II Казіміра Вазы. У 1665—66 маршалак вял. каронны, у 1666—68 гетман польны каронны. Вызначыўся ў бітве пад Падгайцамі на З Украіны (6.10.1667), дзе з 3-тысячным войскам разбіў 30-тысячнае казацка-татарскае войска гетмана Правабярэжнай Украіны П.Дарашэнкі. З 1668 вял. гетман каронны. У 1671 і 1672 нанёс крымскім татарам новыя паражэнні. Праславіўся перамогай над туркамі і татарамі ў *Хацінскай бітве 1673*. 16.5.1674 на сойме абраны каралём і вял. князем. Супраць яго кандыдатуры выступала кіруючая прааўстрыйская групоўка магнатаў ВКЛ на чале з Пацамі. Аднак Радзівілы і Сапегі, што былі ў апазіцыі да Пацаў, падтрымалі новага караля. Я. III С. пачаў вылучаць на вышэйшыя пасады ў ВКЛ прадстаўнікоў сям'і Сапегаў, абапіраўся таксама на Радзівілаў (яго сястра Кацярына была замужам за М.К.*Радзівілам*). У далейшым Я. III С. доўгі час змагаўся з апазіцыяй, якую падтрымлівалі аўстрыйскія Габсбургі. Сам належаў да прафранцузскай групоўкі палітыкаў Польшчы і ВКЛ. У 1674 і 1675 нанёс новыя паражэнні турэцкім і татарскім войскам на Украіне. Намагаўся заключыць трывалы мір з Турцыяй і палепшыць адносіны з Расіяй, заключыць саюз з Францыяй і Швецыяй супраць Брандэнбургска-Прускай дзяржавы і Аўстрыі, далучыць да Польшчы Прускае герцагства з Каралявуцом. У 1683 быў падпісаны трактат аб дружбе з Аўстрыяй, і калі ў 1683 турэцкая армія аблажыла Вену, Я. III С. з 27-тысячным войскам Рэчы Паспалітай падышоў да горада і ўзначаліў агульнае войска імператара і германскіх князёў (разам 70 тыс. чал.). 12 вер. адбылася генеральная *Венская бітва 1683*. Яна скончылася разгромам турэцкага войска. Хоць вайна працягвалася да 1699, для Рэчы Паспалітай турэцкая пагроза была знята. Польшча вярнула сабе Падолію і крэпасць Камянец. У 1684 утварыўся антытурэцкі саюз, у які ўвайшлі



**Ян III** Сабескі. Невядомы мастак. Каля 1674.

Рэч Паспалітая, Аўстрыя, рымскі папа і Венецыя. Каб далучыць да яго Расію, у Маскву было накіравана пасольства на чале з ваяводам пазнанскім К.Гжымултоўскім, якое заключыла *«Вечны мір» 1686*. У астатнія гады панавання Я. III С. змагаўся з апазіцыяй, у складзе якой былі прадстаўнікі і прааўстрыйскай, і прафранцузскай груповак; абвастрыліся адносіны паміж каралём і Сапегамі. Караля і яго план усталявання спадчыннай манархіі падтрымалі толькі прыдворныя групоўкі і сярэдняя шляхта. Я. III С. ўвайшоў у гісторыю як выдатны палкаводзец, мецэнат, апякун навукі і мастацтва ў Рэчы Паспалітай. Іл. гл. таксама ў т. 1, с. 25, 164.

*Літ.*: Korzon T. Dola i niedola Jana Sobieskiego, 1629—1674. T. 1—3. Kraków, 1898; Sadzewicz M. Jan III Sobieski, 1629—1696. Warszawa, 1972; Płocha J. Król Jan Sobieski i jego epoka. Warszawa, 1986; Wójcik Z. Jan Sobieski, 1629—1696. 2 wyd. Warszawa, 1994; Грыцкевіч А. Ян Сабескі (1629—1696), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ад 1674 г. // Культура. 1994. 23 сак.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Янаў** (Янаў-Падляшскі, польск. Янаў-Падляскі, Janów Podlaski, цяпер цэнтр гміны ў Бяльскім пав. Люблінскага ваяв., Рэспубліка Польшча), мястэчка ў Берасцейскім пав., на р. Крыўка. Першапачаткова в. Порхаў, якую ў 1423 вял. кн. Вітаўт падараваў Луцкаму кафедральнаму касцёлу. У 1428 Вітаўт заснаваў касцёл. У 1465 луцкі біскуп Ян Ласовіч заснаваў тут мястэчка, якое атрымала хэлмскае права на самакіраванне і новую назву Я. у гонар біскупа. Тады ж заснаваны касцёл, які пасля перайшоў ва ўладанне дамініканцаў. У 1497 вял. кн. Аляксандр даў Я. права на 3 кірмашы штогод, а ў 1730 Аўгуст II — прывілей на 4-ы кірмаш. У 1522 біскуп П.Гальшанскі адбудаваў згарэлы касцёл. Луцкія біскупы мелі ў Я. рэзідэнцыю. Яна размяшчалася ў замку, які быў умацаваны 4 бастыёнамі. У 1575 у Я. больш за 500 дамоў. Горад пацярпеў ад пажараў у 1575 і 1620. У 1657 захоплены шведамі. У 1648 адчынена каталіцкая духоўная семінарыя. У Я. існавала драўляная уніяцкая царква. У 1717 пачалося будаўніцтва мураванага касцёла Св. Тройцы (асвячоны ў 1735). У Я. жыў і пахаваны А.*Нарушэвіч*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Аўстрыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Янаў** (Янаў-Палескі, цяпер Іванава, горад, цэнтр Іванаўскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Пінскім пав., на р. Самараўка (прыток р.



**Янаў** (Янаў-Палескі). Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

Неслуха). Вядомы з 17 ст. У 1657 тут быў забіты казакамі езуіт А.*Баболя*. Мястэчка належала полацкаму ваяводзе, пасля троцкаму кашталяну Я.К.Копацю, які ў 1678 заснаваў у Я. езуіцкую місію, што належала Пінскаму калегіума. Пасля яго смерці Я. ў 1694 перайшоў да яго дачкі Ганны, жонкі кн. Канстанціна Яна Шуйскага, вял. пісара ВКЛ. Пасля мястэчкам валодаў яго сын Апалоніуш Аляксандр Шуйскі, які памёр тут у 1763, і унук Ян Непамуцэн Шуйскі. Пасля смерці апошняга Я. перайшоў да яго сястры Ганны, якая ў 1781 выйшла замуж за Яна Тадэвуша Арэшку (у 19 ст. Я. валодалі Арэшкі). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Янін** (Янин) Валянцін Лаўрэнцьевіч (н. 6.2.1929, г. Кіраў, Расія), расійскі гісторык і археолаг. Акадэмік Рас. АН (1990; чл.-кар. з 1966). Д-р гіст. навук (1963), праф. (1964). Скончыў Маскоўскі ун-т (1951), дзе пасля выкладаў (з 1978 заг. кафедры археалогіі). Працы па слав. археалогіі і гісторыі Расіі феад. перыяду. Даследуе ўзаемаадносіны Ноўгарада з ВКЛ. Адзін з кіраўнікоў Наўгародскай археалагічнай экспедыцыі. Ленінская прэмія 1984, Дзярж. прэмія СССР 1970, Дзярж. прэмія Рас. Федэрацыі 1996.

*Тв.*: Денежно-весовые системы русского средневековья: Домонгольский период. М., 1956; Новгородские посадники. М., 1962 (2 изд. 2003); Актовые печати Древней Руси X—XV вв. Т. 1—3. М., 1970—98 (т. 3 разам з П.Р.Гайдуковым); Новгородская феодальная вотчина: (Историко-генеалогическое исследование). М., 1981; Некрополь Новгородского Софийского собора. М., 1988; Новгородские акты XII—XV вв.: Хронологический комментарий. М., 1991; Новгород и Литва: Пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998; Планы Новгорода Великого XVII—XVIII веков. М., 1999; Средневековый Новгород: Очерки археологии и истории. М., 2004.

*Літ.*: Гайдуков П.Г. Валентин Лаврентьевич Янин: Биобиблиогр. указ. Новгород, 1997.

**Яніцкая** Мая Міхайлаўна (н. 22.5. 1931, б. хутар Валянцінава Лагойскага р-на), беларускі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1974). Скончыла Усесаюзны завочны ін-т сав. гандлю (1955). Працавала ў выдавецтвах «Звязда» (1958—61) і «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П.Броўкі (1974—77, у 1975—76 заг. рэдакцыі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі»), Міністэрстве мясц. прамысловасці і бытавога абслугоўвання насельніцтва (1961—69, старшы інжынер па мастацкіх промыслах). У 1971—74 і з 1977—91 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, у 1991—94 у Нац. навук.-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны, з 1997 у Бел. дзярж. ін-це праблем культуры. Даследуе гісторыю бел. культуры, у т.л. гісторыю мастацкага шкла, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва ВКЛ. Адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—2, 1987), мультывідыйнага выдання «Беларуская культура. Лепшыя старонкі: Іканапіс. Традыцыйны касцюм. Архітэктура. 100 рарытэтаў з музеяў Беларусі» (2000).

*Тв.*: Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мн., 1977; Вытокі шкларобства Беларусі. Мн., 1980; Беларускае мастацкае шкло, XIX—пачатак XX стагоддзя. Мн., 1984; Гісторыя шкляной вясёлкі. Мн., 1986; Художественное стекло Советской Белоруссии. Мн., 1989; Драматычныя лёсы Нясвіжскага замка // Вяртанне-2. Мн., 1994; Рэнесансавая мэбля ў Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994.

**Янкоўскі** Чэслаў (псеўд. Чэслаў, Літвін, Ашмянчук і інш.; 9.12. 1857, в. Паляны Ашмянскага пав.—6.10.1929), гісторык, паэт, публіцыст. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Удзельнічаў у заснаванні Таварыства сяброў навук у Вільні (1907). Супрацоўнічаў у час. «Kraj» («Край», Пецярбург, у 1902—04 яго сакратар), у 1905—07 у Вільні рэдагаваў газ. «Kurjer Litewski» («Літоўскі веснік»). У 1920-я г. супрацоўнічаў у віленскім кансерватыўным час. «Słowo» («Слова»). Аўтар паэт. зборнікаў («Вершы», т. 1—3, 1879—84), гіст.-краязнаўчых прац «Польскі народ і яго айчына», «Этнаграфічная Польшча» (1914), «На вастры справядлівасці» (1918), выдаў зборнік «Карэспандэнцыя Радзівіла Пане Каханку» (1898), успаміны «З чачоткавай шкатулкі» (1926). У гіст.-этнаграфічных нарысах «Ашмянскі павет» (т. 1—4, 1896—1900) даў грунтоўную характарыстыку Валожыншчыны, Смаргоншчыны, Маладзечаншчыны. Перакладаў з рус., нямецкай, чэшскай, французскай моў.

*Тв.*: Powiat Oszmiański: Materjały do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 1—4. Petersburg; Kraków, 1896—1900.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Мархель У.І. Лірнік вясковы. Мн., 1983.

**Янкявічэне** (Jankevičienė) Альгe Рэгіна (н. 27.6.1930, Каўнас), літоўскі гісторык архітэктуры. Д-р габілітаваны (2000). Скончыла Каўнаскі політэхнічны ін-т (1955). З 1956 працуе ў Ін-це архітэктуры і будаўніцтва (з 1975 заг. сектара гісторыі архітэктуры). Даследуе гатычныя, неагатычныя і драўляныя сакральныя пабудовы Літвы і Беларусі. Аўтар кніг «Ансамбль старога горада ў Вільнюсе» («Vilniaus senamiesčio ansamblis», Вільнюс, 1969), «Гатычны ансамбль у Вільнюсе» («Vilniaus gotikos ansamblis», Вільнюс, 1981), «Архітэктура жамойцкіх драўляных касцёлаў» («Žemaičių medinų bažnyčių architektūra», Вільнюс, 1996), «Літоўская драўляная сакральная архітэктура» («Lietuvos medinė sakralinė architektūra», Каўнас, 1998); адзін з аўтараў кніг «Гісторыя архітэктуры Літвы» («Lietuvos architektūros istorija», т. 1, Вільнюс, 1987); «Готыка Вялікага княства Літоўскага: сакральная архітэктура і мастацтва» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakrakinė architektūros ir dailė», Вільнюс, 2002).

*Тв.*: Некоторые сооружения Вильнюса XVI в. // Архитектурное наследство. М., 1964. Вып. 17; Самабытныя рысы беларускай готыкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1; Wschodni obszar występowania gotyki i niektóre specyficzne cechy litewskiej architektury XV—XVI w. // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki. 1974. Z. 3; Принципы и средства композиции фасадов готических жилых домов Литвы // Архитектурное наследство. М., 1984. Вып. 32; Gotycka architektura sakralna Litwy i Białorusi // Lituano-Slavica Posnaniensis. Poznań, 1992. T. 5; Вялікая сінагога ў Вільні // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994; Dzieje architektury drewnianych kościołów na Litwie // Litwa i Polska: Dziedzictwo sztuki sakralnej. Warszawa, 2004.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Янулайціс** (Janulaitis) Аўгусцінас (19.3.1878, в. Малавенай Шаўляйскага р-на, Літва—22.5.1950), літоўскі юрыст, гісторык. Акадэмік АН Літвы (1941). Вучыўся ў Маскоўскім (1896—1900, скончыў у 1907) і Бернскім

(1903—05) ун-тах. За антыўрадавую дзейнасць у 1900 арыштаваны і выключаны з Маскоўскага ун-та. У 1902 уцёк за граніцу. У 1902—05 рэдактар газ. «Darbininkų balsas». Належаў да Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы. У 1919—25 суддзя Гал. трыбунала. З 1922 праф. Каўнаскага ун-та. Аўтар кніг «Гісторыя грамадства і права Літвы» («Lietuvos visumenes ir teises istorija», Каўнас, 1920), «Галоўны Літоўскі Трыбунал XVI—XVIII стст.» («Vyriausiasis Lietuvos Tribunolas XVI—XVIII a.», Каўнас, 1927), «Занёманскі край пад уладай Прусіі (1797—1807)» («Užnemunė po Prūsais (1797—1807)», Каўнас, 1928), «Кодэкс Напалеона» («Napaleono teisynas», Каўнас, 1930), «Ігнат Даніловіч: (Гісторык Літвы і яе права)» [«Ignas Danilavičius: (Lietuvos bei jos teises istorikas)», Каўнас, 1932], «Шляхта Літвы і яе соймікі ў XIX ст. (1795—1863)» [«Lietuvos bajorai ir jų seimekai XIX a. (1795—1863)», Каўнас, 1936] і інш.

*Тв.*: Powstanie włościan szawelskich w roku 1769. Wilno, 1921; Chłopi litewscy w roku 1831. Wilno, 1921.

**янычары** (тур. yeniçeri новае войска), від пяхоты ў войску ВКЛ. Янычарскія харугвы тут былі створаны ў пач 18 ст. на ўзор турэцкіх Я. Былі ўзброены рушніцамі, сякерамі і шаблямі, абмундзіраваны ва уніформу, падобную на турэцкую. Па сацыяльным складзе і камандаванні не адрозніваліся ад іншых вайсковых часцей ВКЛ. Фактычна стварэнне янычарскіх харугваў было выклікана культурным уплывам Усходу. У войску ВКЛ першапачаткова было 3 янычарскія харугвы на чале з ротмістрамі. Атрымлівалі плату з дзярж. скарба. Адна янычарская харугва заўсёды знаходзілася пры вял. гетмане ВКЛ. У ходзе ваеннай рэформы 1770-х г. у войску ВКЛ пакінуты 2 янычарскія харугвы як ганаровая варта пры вял. і польным гетманах. У канцы 1780-х г. яны налічвалі па 73 чал. Мелі аркестры (капэлы), што складаліся з духавых і ўдарных інструментаў. У сярэдзіне 18 ст. ўладальнік Слуцка Г.Ф.*Радзівіл* у сваім прыватным войску таксама завёў янычарскую харугву (называлася таксама лейб-кампанія, рота), якая налічвала да 150 чал. Пасля яго смерці Я. са Слуцка пераведзены ў Нясвіж. У 1768 батальён Я. тут налічваў 323 вайскоўцы на чале з падпалкоўнікам, пасля Я. пераведзены ў г. Белая на Падляшшы, а ў ходзе барацьбы з Барскай кафедэрацыяй распушчаны.

Да арт. **Янычары**. Афіцэр і шэраговы янычарскіх грэнадзёрскай і стралецкай харугваў булавы польнай і булавы вялікай войска ВКЛ. Малюнкі канца 18 ст.







*Літ.*: Грыцкевіч А. Янычары ў Беларусі // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 6.

**Яраславічы**, княжацкі род у ВКЛ. Паходзілі ад бораўскага кн. Андрэя Іванавіча, сына вял. князя маскоўскага Івана Каліты. Яго нашчадкі валодалі Бораўскам і Серпухавам. Ад імя Яраслава Уладзіміравіча (?—1426), унука Андрэя Іванавіча, яго нашчадкі ў ВКЛ Іван і Фёдар утварылі прозвішча Я. Найб. вядомыя:

Васіль Яраславіч (?—1483), сын Яраслава Уладзіміравіча. Удзельны князь бораўскі. У час феад. вайны 1425—53 у 1446 выгнаны вял. князем маскоўскім Дзмітрыем Шамякам. Ад'ехаў у ВКЛ, дзе атрымаў ад вял. князя літоўскага Казіміра Бранск, Гомель, Старадуб, Мсціслаў. Пасля вярнуўся, дапамог Васілю II вярнуць маскоўскі трон і ў 1449 атрымаў ад яго пацвярджэнне на родавыя ўладанні. Як сведка падпісаў *дагавор 1449* паміж Васілём II і Казімірам. У 1456 сасланы Васілём II у Угліч. Яго жонка з пасынкам Іванам уцякла ў ВКЛ.

Іван Васілевіч (?—1507), сын Васіля Яраславіча. З маладосці знаходзіўся ў ВКЛ. У 1462 заключыў дагавор з выгнанцам з Маскоўскай дзяржавы кн. Іванам Андрэевічам Бельскім пра сумесныя дзеянні супраць вял. князя маскоўскага. Вял. князь літоўскі Казімір даў Івану Васілевічу Клецкае і Давыд-Гарадоцкае княствы (1492?), Рагачоўскую вол., што пацвердзіў у 1499 вял. кн. Аляксандр.

Фёдар Іванавіч (?—паміж жн. 1520 і лютым 1522), сын Івана Васілевіча. У 1498 ажаніўся з Аляксандрай (Аленай), дачкой кн. Сямёна Алелькавіча; пасля смерці ў 1501 цешчы атрымаў у спадчыну Пінскае княства. У 1503 разбіты татарамі на р. Уша каля Оўруча. Пасля смерці бацькі атрымаў Клецк, Давыд-Гарадок, Рагачоў, у 1508 — пацвярджэнне на валасць Вяда ў Новагародскім пав. Адзін з буйнейшых землеўладальнікаў ВКЛ. У 1509 разам з жонкай заключыў дагавор з вял. князем літоўскім Жыгімонтам Старым: той браў іх пад сваю апеку і абараняў ад маёмасных прэтэнзій з боку сваякоў, а яны завяшчалі Жыгімонту ўсе свае ўладанні. Рабіў падараванні на карысць правасл. царквы. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры ў Кіеве. На ім род Я. згас.

*Літ.*: Грушевский А.С. Пинское Полесье: Ист. очерки. Ч. 2. Киев, 1903; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

***Валерый Пазднякоў.***

**Яраслаў Васілевіч** (?—1320), князь віцебскі. Вядомы па адзінай крыніцы — «Радаводу князёў віцебскіх», змешчаным у прыпісцы да *Хронікі Быхаўца*. Згодна з ім, быў унукам кн. Андрэя Яраславіча ад шлюбу з галіцкай князёўнай Настассяй Данілаўнай. У 1318 выдаў дачку Марыю замуж за крэўскага кн. *Альгерда*. Пасля смерці Я.В. Альгерд стаў віцебскім князем. «Радавод князёў віцебскіх» з'яўляецца,

відаць, познім фальсіфікатам, большая частка яго звестак не адпавядае сапраўднасці, таму рэальнасць існавання Я.В. выклікае сумненні.

*Літ.*: Сапунов А.П. Витебская старина. Вып. 1. Витебск, 1883; Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 173. Dąbrowski D. Radosłowle kniazey Wytebskich — analiza porównawcza treści // Genealogia. Poznań; Wrocław, 2002.

***Васіль Варонін.***

**Ярашэвіч** Аляксандр Адамавіч (н. 28.8.1940, в. Любкаўшчына Стаўбцоўскага р-на), беларускі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (2003). Скончыў БДУ (1962). З 1965 у Ін-це ядзернай энергетыкі, у 1979—2003 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, з 2004 у Нац. мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь (вядучы навук. супрацоўнік). Даследуе гісторыю бел. мастацтва 16—18 ст. (скульптуру, іканапіс, алтарны жывапіс, іканаграфію), гісторыю бел. манастыроў. Укладальнік і адзін з аўтараў тэкстаў у альбоме «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мінск, 2004).

*Тв.*: «Маці Божая Снежная» ў Беларусі. Мн., 2003; Абраз Маці Божай Будслаўскай. Мн., 2004; Будслаўская базыліка Унебаўзяцця Панны Марыі. Мн., 2005; Мінскі Свята-Духаў кафедральны сабор. Мн., 2006.

**Ярашэвіч** Юзаф (1793, г. Бельск Падляшскага ваяв.—1.2.1860), гісторык, этнограф, юрыст. Скончыў Віленскі ун-т (1815). У 1815—26 выкладаў у Крэменецкім ліцэі. Праф. права Віленскага ун-та (1826—31). Друкаваўся ў час. «Atenaeum» («Атэнеум»), «Pamiętnik Warszawski» («Варшаўскі дзённік») і інш. Аўтар навук. прац «Пра ўплыў хрысціянскай рэлігіі на цывілізацыю славян» (1826), «Пра стан цывілізацыі Літвы перад і пасля заснавання акадэміі», «Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі ад найстаражытнейшых часоў да канца веку» (т. 1—3, 1844—45), «Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні: Бельскі павет» (1848), публікацыі пра Бельск, Драгічын, Супрасль і інш. Абапіраючыся на звесткі М.Стрыйкоўскага, А.Нарушэвіча, Т.Нарбута, вывучаў паходжанне плямён, якія жылі на тэр. Беларусі, фальклор і этнаграфію бел. насельніцтва.

*Літ.*: Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Мн., 1964; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984.

**Ярманскі** (Юрманскі) Францішак Банавентура (14.10.1725, Берасцейскае ваяв.—5.4.1784), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, археограф. Вучыўся ў піярскіх навучальных установах у Новым Дольску, Любяшове. У 1744 уступіў ў ордэн піяраў, з 1746 святар. 12 гадоў быў хатнім настаўнікам у Радзівілаў. Пасля рэктар піярскіх калегіумаў у Вільні і Шчучыне, якія значна пашырыў, узняў там узровень навучання. У 1778—81 узначальваў Літ. правінцыю ордэна. Аўтар падручнікаў, у т.л. «Практыкаванні, выкарыстаныя ў маладых Радзівілаў і вучнёўскай моладзі» («Opuscula in iuvenum Radzivillorum et scholasticae iuventutis usum»). Склаў і выдаў на лацінскай мове зборнік дакументаў па гісторыі піяраў у Рэчы Паспалітай да 1772: «Дэкрэты генеральных капітулаў ордэна...» («Decreta capitulorum generalium ordinis...», Вільня, 1780).

**Ясас** (Jasas) Рымантас (1.6.1929, г. Шаўляй, Літва—25.1.2002), літоўскі гісторык. Скончыў Вільнюскі ун-т (1957). З 1957 працаваў у Ін-це гісторыі АН Літвы, у 1968—75 і з 1979 у аддзеле рукапісаў Цэнтр. б-кі АН Літвы, у 1976—79 у Гал. рэдакцыі энцыклапедычнага выдавецтва. Аўтар кніг «Вялікае паўстанне прусаў» («Didysis prūsų sukilimas», Вільнюс, 1959), «Перапіс насельніцтва Вялікага княства Літоўскага 1790 г.» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojų surašymas 1790 m.», Вільнюс, 1972, з Л.Трускам), адзін з аўтараў кнігі «Вайна Літвы з крыжакамі» («Lietuvos karas su kryžiuočiais», Вільнюс, 1964). Удзельнічаў у выданні зборнікаў дакументаў «Спрэчкі сялян і гараджан з упраўляючымі маёнткаў» («Lietuvos valstiečių ir miestelėnų ginčai su dvarų valdytojais», Вільнюс, 1961, ч. 2, з Е.Ордам; 1968, ч. 3, з М.Ючасам), «Помнікі літоўскага права. Т. 2. Суды на ведзьмамі ў Літве» («Lietuvos teisės paminklai. T. 2. Raganų teismai Lietuvoje», Вільнюс, 1987, з К.Яблонскісам). Выдаў «Каталог пергаментаў» Б-кі АН Літвы («Pergamentų katalogas», Вільнюс, 1980). Пераклаў на літ. мову Хроніку Быхаўца (Вільнюс, 1971), хроніку Віганда з Марбурга (Вільнюс, 1999).

**ясачныя** (ад цюрск. ясак — служба, цягло), катэгорыя цяглага насельніцтва на Украіне ў 15—16 ст. Першапачаткова гэта людзі, вылучаныя ардынскай адміністрацыяй для якіх-небудзь спец. работ, утрымлівалі ў сябе ардынскіх чыноўнікаў. Плацілі даніну ў Арду. З канца 15 ст., пасля падзення ардынскай улады, выконвалі розныя работы на карысць мясц. замкаў (вазілі дровы, ваду, рамантавалі ўмацаванні і інш.); выплачвалі кіеўскаму ваяводзе грошы, давалі сена, мёд. Ім забараняўся гандаль, не хадзілі на вайну. Не мелі права пераходу.

*Літ.*: Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Литовский период. Одесса, 1912. С. 531—533.

**Ясінскі** Антон Мікітавіч [22.9(4.10).1864, в. Мяжырыч Канеўскага р-на Чаркаскай вобл., Украіна—13.11.1933], беларускі гісторык. Акадэмік Бел. АН (1928), чл. Чэшскай АН (1907), д-р усеагульнай гісторыі (1901), праф. (1896). Скончыў Кіеўскі ун-т (1888). У 1896—1911 праф. Юр'еўскага ун-та. У 1911—19 дырэктар Педагагічнага ін-та імя П.Р.Шалапуціна ў Маскве, адначасова прыват-дацэнт, праф. Маскоўскага ун-та, у 1920—22 праф. Маскоўскага археалагічнага ін-та. У 1922—28 праф. БДУ па кафедры гісторыі сярэдніх вякоў. У 1927—29 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі Інбелкульта. У 1929—33 працаваў у Ін-це гісторыі Бел. АН. Навук. працы па сярэдневяковай гісторыі Чэхіі, гісторыі землеўладання на Беларусі ў 15 ст.

*Тв.*: Падение земского строя в Чешском государстве (X—XIII вв.). Киев, 1895; Очерки и исследования по социальной и экономической истории Чехии в средние века. Т. 1. Юрьев, 1901; Поземельная опись Градищенского монастыря: Опыт изучения памятника аграрной истории Чехии. Мн., 1926; З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI сталецьця // Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525—1925. Мн., 1926; Спроба крытычнага вывучэньня Кнігі Данін вялікага князя Казіміра // Зап. аддз. гуманіт. навук. 1928. Кн. 3. Пр. клясы гісторыі, т. 2; Пісар вялікага князя Казіміра Васіль Паўлавіч Любіч, як прадстаўнік буйнага земляўладальніка XV сталецьця: (Нарыс да гісторыі буйнае зямляўласнасьці на Беларусі) // Там жа. 1929. Кн. 8, т. 3.

*Літ.*: Казакова М.А. Исторические взгляды А.Н.Ясинского // Науч. докл. высшей школы. Ист. науки. 1961. № 3.

***Віктар Астрога, Уладзімір Калаткоў.***

**Ясінскі** (Ясинський, Ясинский) Міхаіл Мікалаевіч [29.9(11.10).1862—1921], украінскі гісторык права, археограф. Магістр права (1891), праф. ардынарны (1914), праф. заслужаны (1918). Скончыў Кіеўскі ун-т (1888), дзе пасля выкладаў (з 1893 прыват-дацэнт, з 1901 праф., у 1910—12 дэкан гіст. факультэта). Адначасова ў 1889—95 выкладаў ва Уладзімірскім кадэцкім корпусе. З 1918 правадзейны чл. Кіеўскай археаграфічнай камісіі. Даследаваў гісторыю права і судаводства ВКЛ, прававы статус укр. і бел. зямель у складзе ВКЛ.

*Тв.*: Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889; Обзор последних изданий Виленской археографической комиссии. Киев, 1893; Акты о копных и панских судах: Материалы для истории судоустройства и судопроизводства в Литовско-Русском государстве. Т. 1. 1501—1588. Киев, 1897; К истории апелляционных судов в Польше и Литве: Луцкий трибунал как высшая судебная инстанция для Волынского, Брацлавского и Киевского воеводств в последней четверти XVI в. Киев, 1899—1900; Главный литовский трибунал, его происхождение, организация и компетенция. Вып. 1. Происхождение Главного литовского трибунала. Киев, 1901.

**Ясінскі** Якуб (24.7.1761, каля Пыздраў, Пазнанскае ваяв.—4.11.1794), ваенны і палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў *паўстання 1794*, інжынер, паэт. Са шляхты. Скончыў Корпус кадэтаў (Рыцарскую школу) у Варшаве, з 1783 афіцэр у ім. У пач. 1789 сфарміраваў корпус інжынераў войска ВКЛ (інжынерная служба арміі, 42 афіцэры і жаўнеры, у т.л. 20 мінёраў), прызначаны яго камандзірам у рангу падпалкоўніка; з 13.1.1792 палкоўнік. Удзельнічаў у ваенных дзеяннях войска ВКЛ у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792*. Летам 1793 увайшоў у канспіратыўныя групы ў Літве і Беларусі, якія рыхтавалі паўстанне. Належаў да радыкальнай групоўкі *«віленскіх якабінцаў»*, узначаліў падрыхтоўку паўстання ў Вільні. «Віленскія якабінцы» на чале з Я. заклікалі выкарыстаць вопыт французскай рэвалюцыі, выступалі за адмену прыгону і аднаўленне федэратыўнай Рэчы Паспалітай у межах 1772. 16.4.1794 узначаліў паўстанне ў ВКЛ. 24.4.1794 Вільня вызвалена ад рас. войск, Я. ўвайшоў у створаную *Найвышэйшую літоўскую раду*. 3.5.1794 прызначаны



Я.**Ясінскі**. Невядомы мастак. Каля 1794.

ёю камандуючым узброенымі сіламі ВКЛ, кіраваў арганізацыяй новай арміі, набіраючы шляхту, мяшчан і сялян у войска. Пісаў вершаваныя праклamацыі да сялян на бел. мове. 11.5.1794 атрымаў ранг генерал-лейтэнанта. У маі 1794 прадухіліў пагрозу заняцця Вільні рас. войскамі, якія 7.5.1794 пацярпелі паражэнне ад яго дывізіі каля в. Паляны ў Ашмянскім пав. Большую частку яго дывізіі складалі сяляне. У 2-й пал. мая дывізія Я. ўдзельнічала ў бітве пад Ліпнішкамі (каля Іўя). Арганізоўваў партызанскія экспедыцыі на тэр. Мінскай губ. 4.6.1794 Т.Касцюшка пад націскам кансерватыўных сіл адхіліў Я. ад кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі як радыкала. Загадам Касцюшкі Найвышэйшая літ. рада 10.6.1794 распушчана і заменена *Цэнтральнай дэпутацыяй Вялікага княства Літоўскага* з больш памяркоўных элементаў. Я. працягваў камандаваць дывізіяй, якая пасля бітвы пад мяст. Солы (26.6.1794) арганізавана адступіла. Я. выехаў у Варшаву, 15.7.1794 прызначаны камандуючым войскам на мяжы з Жамойцю і над р. Нараў на Беласточчыне. 29.9.1794 узнагароджаны Касцюшкам у Гародні пярсцёнкам «Айчына свайму абаронцу» і прызначаны камандзірам дывізіі ў войску ВКЛ. З 20.10.1794 у Варшаве. Загінуў пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы). Меў паэтычныя здольнасці. Творчасць напачатку развівалася пад уплывам сентыменталізму. У сярэдзіне 1780-х г. звярнуўся да сац. тэматыкі, яго творы набылі паліт. характар. Аўтар іроікамічнай паэмы «Спрэчкі» (1788—92), паэмы «Цянця» (абедзве часткова апубл. ў газ. «Tygodnik Wileński» ў 1819). Верш Я. «Аб сталасці: Да польскіх выгнанш-каў» выдадзены асобна ў Гародні (1793). Творы Я. выдадзены ў Кракаве (1869). А.Міцкевіч прысвяціў яму драму «Якуб Янскі».

*Літ.*: Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji kościuszkowskiej. Wiedeń, 1909; Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; Keler J. Poezja Jakuba Jasińskiego. Wrocław, 1952; Leśnodorski B. Polscy jakobini. Warszawa, 1960; Грыцкевіч А.П. Паўстанне 1794 г.: перадумовы, ход і вынікі // Бел. гіст. часопіс. 1994. № 1; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Яскевіч** Алена Аляксандраўна (н. 10.6.1967, Мінск), беларускі філолаг. Д-р філалагічных навук (2003). Скончыла БДУ (1989). З 1990 у Ін-це л-ры НАН Беларусі. Даследуе традыцыі бел. і слав. гуманітывістыкі.

*Тв.*: Старабеларускія лексіконы: «Лексисъ съ толкованіемъ словенскіхъ мовъ просто», «Лексис...» Л.Зізанія, «Синонима славенороссkая». Мн., 1992; Словам скароны свет. Мн., 1995; Творы Ф.Скарыны: Жанравая структура. Філас. погляды. Мастацтва слова. Мн., 1995; Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI—XVII стагоддзяў: адзінства экзэгезы і герменеўтыкі. Мн., 1996; Старабеларускія граматыкі: Да праблемы агульнафілалагічнай цэласнасці. Мн., 1996; Спадчына Івана Ужэвіча і славянскія літаратуры. Мн., 1998; Абранне Вечнасці: Універсалізм традыцый і гістарызм сучаснасці. Мн., 1999; Спрадвечная Ахоўніца Беларусі: Духоўныя пошукі старабеларускага этнасу ў гістарычных даляглядах. Мн., 2000; Падзвіжнікі і іх святыні: Духоўная культура старажытнай Беларусі. Мн., 2001.

**«Ястрабец»**, «Ястшэмбец», прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 750 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Бжазоўскія, Завістоўскія, Неміровічы, Пратасовічы, Шчыты. Мае ў блакітным полі залатую падкову канцамі ўгору, у ёй залаты кавалерскі крыж; клейнод — над прылбіцай з каронай ястраб з залатымі браз-



Герб **«Ястрабец»**.

готкамі на лапах, у правай лапе трымае падкову з крыжом, якія і на шчыце. Існуюць варыянты герба з сярэбранай стралой замест крыжа, з выявай ястраба на крыжы, з трыма 6-прамянёвымі зоркамі над падковай з крыжам і інш. Вядомы з пач. 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**Ясянецкія**, шляхецкі род, гл. *Войны-Ясянецкія*.

**Яўлевіч** Ігнацій, гл. *Ігнацій*.

**Яўлевіч** Тамаш (Фама; ?, Магілёў—пасля 1640-х г.), беларускі пісьменнік і педагог. Вучыўся ў Магілёўскай брацкай школе, Кракаўскім ун-це (сярэдзіна 1620-х г.). У канцы 1620-х—пач. 1630-х г. рэктар Кіеўскай брацкай школы. З 1632 педагог у магілёўскім, у 1640-я г. ў слуцкім брацтвах. Аўтар паэмы «Лабірынт» (Кракаў, 1625, на польскай мове). У паэме, прасякнутай ідэямі асветніцтва, услаўляў неабмежаваныя магчымасці чалавечага розуму, асвету, навуку, заклікаў да адзінства слав. народаў у грамадска-паліт. і культ. жыцці. Твор Я. — узор экспрэсіўна-метафарычнай паэзіі барока.

*Літ.*: Голенченко Г.Я. Новые материалы по истории культурных связей Белоруссии с Украиной и Россией в конце XVI—первой половине XVII в. // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиогр. Мн., 1983. Вып. 2.

***Георгій Галенчанка.***

**Яўнут** (Яўнуцій, у праваслаўі Іван; каля 1308—пасля 1366), вялікі князь літоўскі [1341—45]. Сын вял. кн. *Гедзіміна* і палачанкі Евы (Еўны). Атрымаў ад бацькі ва ўдзел Ашмяны, Браслаў і Вількамір. Паводле завяшчання Гедзіміна пасля яго смерці стаў вял. князем у канцы 1341. Падтрымлівалі Я. вял. княгіня Ева і брат, пінскі кн. *Нарымонт*. Астатнія браты ігнаравалі яго правы і праводзілі самастойную палітыку. Я. не здабыў прыхільнасці бел. і літ. баярства. Паступова ўзмацнялася ўлада віцебскага і крэўскага кн. *Альгерда* і троцкага, гарадзенскага, берасцейскага і жамойцкага кн. *Кейстута*. Адносіны паміж імі і Я. пагоршыліся пасля смерці бяздзетнага старэйшага брата Монвіда, калі Я. перадаў яго спадчыну — Кернаў і Слонім — свайму прыхільніку Нарымонту. Пасля смерці ў пач. 1345 вял. княгіні Евы Альгерд і Кейстут арганізавалі змову супраць Я. Аднак у вызначаны дзень Альгерд са сваім войскам не паспеў да Вільні, і сталіцу заняў Кейстут. Я. уцёк з замка ў бліжэйшыя да Вільні ўзгоркі (Турава гара), дзе прастудзіўся і адмарозіў ногі, трапіў у палон. Згодна з папярэдняй дамовай Кейстут абвясціў Альгерда вял. князем ВКЛ. Фактычна яны падзялілі дзяржаву. Я. уцёк з-пад варты і праз Смаленск прыбыў у Маскву да свайго швагра, вял. кн. Сямёна Іванавіча Гордага, дзе ў 1346 прыняў праваслаўе. Я. стаў першым князем-уцекачом з ВКЛ, хто шукаў падтрымку ў Маскве. У 1347 паміры́ўся з Альгердам і Кейстутам, вярнуўся і атрымаў ва ўдзел Заслаўскае княства, у склад якога некаторы час уваходзіў Менск. У далейшым Я. і яго сыны не прэтэндавалі на велікакняжацкую ўладу. Я. — родапачынальнік князёў *Заслаўскіх*.

*Літ.*: Stadnicki K. Synowie Gedymina wielko-władcy Litwy: Monwid—Narymunt—Jewnuta— Koriat. [3 wyd.] Lwów, 1881; Яго ж. Olgierd i Kiejstut, synowie Gedymina, w. księcia Litwy. Lwów, 1870; Грыцкевіч А. Яўнут (Іван) // Скрыжалі «Спадчыны». Мн., 1996. Вып. 2; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**яўрэі**, народнасць, этнічная група ў ВКЛ. Вызнавалі іудаізм. На Русь перасяляліся з Каўказа і Крыма, з 12 ст. — з краін Зах. Еўропы. Не маючы магчымасці атрымліваць зямельныя надзелы, Я. сяліліся ў гарадах, займаліся ў асн. рамяствам, чым садзейнічалі актыўнаму натуральнаму і гандлёваму абмену з сельскім насельніцтвам. Найб. вялікія і ўплывовыя абшчыны (*кагалы*) Я. склаліся ўжо да 13 ст. ў Гародні, Берасці, Пінску. У ВКЛ Я. засвойвалі лад жыцця і норавы карэннага насельніцтва, аднак з-за адасобленасці абшчыннага і рэлігійнага жыцця не змешваліся з ім і здолелі на працягу доўгага часу захоўваць сваю нац. своеасаблівасць. Займаючы тыя грамадскія нішы, якія па розных прычынах, у т.л. з-за рэліг. абмежаванняў, не займала карэннае насельніцтва, Я. ўнеслі сур'ёзны ўклад у развіццё гандлю і фінансаў ВКЛ, чаму садзейнічала свабода перамяшчэння і магчымасць, згодна з яўрэйскімі законамі, займацца ліхвярствам адносна неяўрэяў. Вял. князі літоўскія хутка ацанілі ролю Я. у эканам. адносінах княства і стымулявалі іх дзейнасць, даравалі шматлікія правы і прывілеі. Асаблівую ролю ў гісторыі Я. ВКЛ адыграў выдадзены Вітаўтам *прывілей 1388*. Яго палажэнні забяспечвалі асабістую бяспеку Я., рэгламентавалі іх адносіны з хрысціянскім насельніцтвам. Я. мелі права на бесперашкоднае перамяшчэнне ў межах краіны, бязмытны правоз цел сваіх адзінаверцаў; хрысціян, якія пакалечылі Я. без праліцця крыві, падвяргалі кары згодна з мясц. законамі; у справах, якія датычылі Я., суд павінен быў засядаць у сінагозе або ў іншым, указаным Я. месцы; той, хто кідаў камяні ў сінагогу, быў абавязаны заплаціць ваяводзе штраф; хрысціянін, які ўвайшоў у дом Я. супраць волі гаспадара, падвяргаўся кары і інш. Прывілей Вітаўта замацоўваў панаваўшыя ў той час у хрысціянскім свеце негатыўныя адносіны да абвінавачванняў Я. у злачынствах з рытуальнай мэтай («крывавы навет»). Я. дазвалялася пазычаць грошы з працэнтамі пад заклад рухомай і нерухомай (у шляхты) маёмасці; асобы, якія перашкаджалі Я. купляць або прадаваць тавары, штрафаваліся ваяводам.

Вял. князі літоўскія карысталіся паслугамі Я. для сваіх мэтаў, заключалі з імі шматлікія арэндныя дагаворы, перадавалі вядзенне важных камерцыйных і фінансавых аперацый у рукі яўрэйскіх адкупшчыкаў, у т.л. знешні гандаль, збор падаткаў, мытных збораў і інш. Сведчаннем высокай ацэнкі, якую давалі вял. князі ролі Я., з'яўляецца перасяленне Вітаўтам у канцы 14 ст. тысячаў крымскіх Я. і *караімаў*, стварэнне месцаў іх кампактнага пражывання ў Троках. У крас. 1495 вял. кн. Аляксандр пад уплывам выгнання Я. з Іспа-



нії (1492) і паводле патрабавання сваёй жонкі Алены Іванаўны выдаў загад аб выгнанні Я. і караімаў з ВКЛ. Я. з паўд. рэгіёнаў ВКЛ зышлі ў Крым, астатнія рассеяліся ўздоўж граніцы з ВКЛ у Польшчы. Аднак у 1503 Аляксандр, пераканаўшыся, што выгнанне Я. прыняло да ўскладнення фінансавага становішча дзяржавы, якая знаходзілася пад пагрозай вайны з Масквой, адмяніў указ. Я. былі вернуты дамы, сінагогі, могілкі; яны атрымалі права спаганяць застаўшыя даўгі, выкупаць канфіскаваную нерухомасць у яе новых уладальнікаў.

Перыяд эканам. і паліт. росквіту Я. ВКЛ пачаўся пры Жыгімонце І. Кароль пацвердзіў прывілей Вітаўта, яго палажэнні былі ўключаны ў Статут ВКЛ 1529 (забойства Я. каралася смерцю, як шляхціца або мешчаніна). Найб. знатныя Я. ў дакументах пачалі называцца панамі. Абрам Езафовіч (гл. ў арт. *Езафовічы*) прыняў праваслаўе і быў прызначаны земскім падскарбіем ВКЛ, яго брат Міхель быў адным з найб. уплывовых адкупшчыкаў з асабліва шырокімі паўнамоцтвамі, у т.л. судовымі (адзіны выпадак, калі нехрышчоны Я. атрымаў шляхецтва).

У 16 ст. працягвалася актыўная міграцыя Я. з Цэнтр. Еўропы, ствараліся новыя яўрэйскія гар. абшчыны (Кобрын, Клецк, Навагародак, Слонім, Менск, Полацк, Віцебск, Магілёў, Орша і інш.). Пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 кароль Стафан Баторый пацвердзіў прывілеі Я. ВКЛ. З 16 ст. яўрэйскія абшчыны атрымлівалі статус аўтаномных адзінак у юрыдычных і падатковых адносінах. На чале абшчын сталі старэйшыны, якія прадстаўлялі іх перад уладамі і адказвалі за збор падаткаў. У 1623 заснаваны *Літоўскі ваад* — з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх абшчын ВКЛ, вышэйшы орган яўрэйскай аўтаноміі, які праіснаваў да 1764. Яўрэйскае насельніцтва ВКЛ нязменна расло (у 1560-я г. — 20 тыс. чал., у 1628 — каля 40 тыс. чал.).

Нягледзячы на тое, што Я. ВКЛ у цэлым не прадстаўлялі буйной эканам. ці паліт. сілы, ступень іх дабрабыту была нашмат вышэй, чым у польскіх і германскіх Я. На працягу стагоддзяў ВКЛ было адным з найбуйнейшых цэнтраў яўрэйскай вучонасці. Першыя іешывы, што рыхтавалі рабінаў, з'явіліся ў канцы 16 ст. ў Берасці і Гародні, пазней — у інш. гарадах (у Менску — у 1685). Іешывы Рэчы Паспалітай служылі ўзорам талмудычнага выхавання для іешыў усёй Еўропы. Пасля зараджэння *хасідызму* іешывы ВКЛ далі жыццё некаторым яго кірункам — любавіцкаму (Хабад) і карлін-столінскаму.

З сярэдзіны 16 ст. ў асяроддзі мяшчан, шляхты і каталіцкага духавенства пачалі нарастаць антыяўрэйскія настроі. У 1527 жыхары Вільні дамагліся забароны на пасяленне Я. у сталіцы. Шляхта дамагалася ўнясення некаторых антыяўрэйскіх абмежаванняў у Статут ВКЛ 1566, у т.л. абавязковага нашэння Я. распазнавальнага знака. Зноў пачалі ўзнікаць «крывавыя навэты», многія магістраты пачалі ўшчамляць эканам. правы Я. Хрысціянскае насельніцтва нярэдка перашкаджала пасяленню Я. у гарадах, што карысталіся самакіраваннем. Напрыклад, Я. Віцебска атрымалі дазвол пабудаваць сінагогу толькі ў 1627. Цяжкі ўдар па яўрэйскіх абшчынах Рэчы Паспалітай нанесла казацкае паўстанне пад кіраўніцтвам Б.Хмяльніцкага 1648—49, якое суправаджалася рабаўніцтвам і разнёй Я., хто адмаўляўся ад прымусовага хрышчэння. У бел. гарадах казакоў падтрымлівалі мясц. сяляне і мяшчане. Татары, якія былі саюзнікамі Хмяльніцкага, бралі Я. у палон, прадавалі ў рабства. Я. шэрагу гарадоў (Гомель, Брагін, Пінск, Слуцк і інш.) збягалі пры набліжэнні казацкіх загонаў. Яўрэйскія абшчыны Берасця і Пінска пацярпелі асабліва моцна. Вынішчэнню яўрэйскае насельніцтва падвяргалася і ў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У цэлым у выніку войнаў сярэдзіны 17 ст. яўрэйскае насельніцтва Рэчы Паспалітай скарацілася на 25%.

У 1766 яўрэйскае насельніцтва ВКЛ налічвала каля 160 тыс. чал., з якіх амаль 40% пражывала на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У гэты час самымі буйнымі абшчынамі былі менская (1396 чал.) і пінская (1350 чал.). Еўрапейскія войны, слабасць каралеўскай улады, пастаяннае пашырэнне антыяўрэйскага заканадаўства і каталіцкая экспансія прывялі да заняпаду яўрэйскага абшчыннага жыцця і збяднення яўрэйскага насельніцтва. Да канца 18 ст. Я. амаль цалкам страцілі свой уплыў у грамадскім і эканам. жыцці рэгіёна. Іл. гл. ў т. 1, с. 65.

*Літ.*: Бершадский С.А. Литовские евреи. СПб., 1883; Лазутка С. Гудавичюс Э. Привилегия евреям Витаутаса Великого 1388 г. М.; Иерусалим, 1993; Евреи Беларуси: История и культура: Сб. статей. Вып. 1—6. Мн., 1997—2001; Дубнов С.М. История евреев в Европе от начала их поселения до конца XVIII века. Т. 2—3. Иерусалим; М., 2003.

*Якаў Басін.*

**яфімак з прыкметаю**, у Расіі назва *талера* (яфімка), контрамаркіраванай круглым штэмпелем з выявай конніка і прамавугольным з датай «1655», для надання замежным манетам законнай моцы як сродку ўнутранага грашовага абарачэння. Контрмаркіраванне рабіў Маскоўскі манетны двор штэмпе-



Да арт. **Яфімак з прыкметаю**. Талер саксонскага герцага Іагана Георга 1627 з надчаканкай цара Аляксея Міхайлавіча 1655.

лямі з капеечнага матачніка на манетах для выплаты войскам, закупкі правіянту на занятых у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* усх. тэр. Рэчы Паспалітай, насельніцтва якіх было нязвыклае да маскоўскай драцяной капейкі. У 1654—59 контрамаркіраваныя талеры (каля 1 млн.) прызнаваліся законным плацежным сродкам. Афіцыйна Я. з п. надаваўся курс у 64 капейкі (талеру — у 50, патагону — 48, на бел. і ўкр. рынках — у 60 кап.), таму іх выпуск прыносіў значны даход за кошт памяншэння выдаткаў на перапрацоўку талераў у капейку. Выяўлена каля 1800 Я. з п. на тэр. Беларусі і Украіны, дзе яны абарачаліся да 1-й чвэрці 18 ст. Найб. ранні з выяўленых яфімкаў, на якіх ставіліся кантрамаркі, датаваны 1525, пераважная частка выпушчана ў 1615—40, зрэдку сустракаюцца палавінныя контрамаркіраваныя абрубкі талераў.

*Літ.*: Спасский И.Г. Русские ефимки: Исследование и каталог. Новосибирск, 1988.

*Іван Сінчук.*



**яцвягі**, я т в я г і, с у д о в ы, с у д з і н ы, група заходнебалцкіх плямён, якія ў 1-м—пач. 2-га тыс. н.э. жылі на тэрыторыі паміж Нёманам на У і р. Нараў, Вялікімі Мазурскімі азёрамі на З. Даследчыкі А.Каменскі, Е.Антаневіч, Г.Лаўмянскі, Ф.Д.Гурэвіч тэрыторыю Я. абмяжоўваюць раёнам Сувалкаў і найбліжэйшымі да іх землямі; Ю.У.Кухарэнка, В.В.Сядоў і інш. ўключаюць у склад яцвяжскай тэр. Падляшша, Берасцейскую зямлю і частку Верхняга Панямоння. Сядоў лакалізуе яцвяжскае племя *дайнава* на правабярэжжы Верхняга Нёмана. Упершыню Я. ўпамінаюцца ў рус. летапісах у 10 ст. Сярод пасольства Русі ў Візантыі пад 944 названы «ятвяг Гунарев». Да 983 адносіцца першае паведамленне пра ваенны паход кіеўскага кн. Уладзіміра на яцвяжскія землі. Апошнія звесткі пра Я. у рус. летапісах датуюцца сярэдзінай 13 ст., у польскіх храністаў — 15—16 ст. Асн. археалагічныя помнікі, якія звязаны з Я., — каменныя курганы.

*Літ.*: Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962; С е д о в В.В. Курганы ятвягов // Сов. археология. 1964. № 4; Я г о ж. Ятвяжское племя Дейнова // Краткие сообщения Ин-та археологии. 1968. № 113; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; З в е р у г о Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989; Археалогія Беларусі. Т. 3. Мн., 2000.

***Яраслаў Зверуга.***

**Яцкевіч** Зміцер Лявонцьевіч (н. 11.3.1966, г. Бабруйск), беларускі гісторык, археограф, архівіст. Скончыў БДУ (1990). З 1988 працаваў археолагам у вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» і Бел. рэстаўрацыйна-праектным ін-це, з 1992 у Нац. гіст. архіве Беларусі (з 2004 загадчык аддзела публікацыі дакументаў). Даследуе гісторыю і культуру гарадоў Беларусі 16—18 ст., праблемы магдэбургскага права, дарэвалюцыйную гісторыю архіваў, праблемы археаграфіі, генеалогіі, геральдыкі, палеаграфіі, філігра-незнаўства. Адзін з аўтараў даведнікаў «Малы гербоўнік наваградскай шляхты» (Мінск, 1997), «Магілёўскі магістрат — 1580—1581, 1588 гг.» (Мінск, 1999), «Гербоўнік беларускай шляхты» (т. 1, Мінск, 2000).

*Тв.*: Радавод Яна Чачота. Мн., 1996; Малы гербоўнік халопеніцкай шляхты. Мн., 1999; Радавод Максіма Багдановіча. Мн., 1999; Звесткі па гісторыі кармеліцкіх кляштараў Беларусі ў матэрыялах Кракаўскага архіва // Вяртанне. Мн., 1999. Вып. 6; Узорны наблітацыйны прывілей для гарадоў Вялікага княства Літоўскага // Бел. археаграфічны штогоднік. Мн., 2001. Вып. 2.



**Памылкі, заўважаныя ў 1-м томе энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае»**

| Старонка | Слупок | Радок | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|---|
| 4 | | 8 зверху | А.В.Кляшчука | А.В.Клешчука |
| 4 | | 9 зверху | Д.М.Раманюка | Дз.М.Раманюка |
| 32 | | 25 зверху | Сувораў | Ферзен |
| 61 | | 19 зверху | 1633 | 1653 |
| 177 | | 6 знізу | prieś | prieš |
| 215 | 3 | 20—21 зверху | кальвініцкіх сінодаў Велікапольскай правінцыі | абшчыны чэшскіх братоў Вял. Польшчы |
| 216 | 2 | 12 зверху | Х | XIV |
| 219 | 2 | 26 зверху | *Васіля III* | *Івана III* |
| 237 | 1 | 14 зверху | ą 2 | № 2 |
| 258 | 2 | 22—23 знізу | в. Асташына Навагрудскага р-на | в. Асташын Карэліцкага р-на |
| 284 | 2 | 27 знізу | mertaétis | mertaštis |
| 298 | 2 | 16 зверху | máslės | mįslės |
| 299 | 3 | 11 знізу | **Беларуска-літоўскі** | **Беларуска-Літоўскі** |
| 311 | 1 | 23 знізу | Васіля III | Івана III |
| 315 | 1 | 17 знізу | 1672—87 | 1672—86 |
| 373 | 3 | 25 зверху | 2-месячнай | 3-месячнай |
| 380 | 1 | 14 знізу | 1599? | 1591? |
| 380 | 3 | 9—10 зверху | Валанчэўск | Валанчэўскі |
| 405 | 2 | 23 знізу | 1733 | 1734 |
| 461 | 2 | 8 зверху | 1627—30; 1630 | 1627—31; 1631 |
| 461 | 3 | 5 знізу | 1689 | 1698 |
| 465 | 3 | 24—25 знізу | мястэчка, належала Гаштольдам. | мястэчка. |
| 496 | 2 | 20 знізу | Падзелу на паветы не было. | У складзе Г.в. Ваўкавыскі, Гарадзенскі і Сакольскі пав. |
| 496 | 3 | 14 знізу | 1760-я г. | 1773 |
| 504 | 1 | 6 зверху | Ларыса | Людміла |
| 539 | 2 | 4 знізу | **кармелітаў** | **кармелітаў босых** |
| 540 | 2 | 3 знізу | 1571—85 | 1572—84 |
| 541 | подпіс пад ілюстрацыяй | 2 зверху | Мікалаеўскі | Міхайлаўскі |
| 576 | 1 | 9 знізу | 1237 | 1238 |
| 578 | 1 | 22—23 знізу | сына Уладзіслава), з Аляксандрай з Верашчакаў. | сына Уладзіслава). |
| 578 | 1 | 27 знізу | тройчы | двойчы |
| 608 | 3 | 17 знізу | Паўд. | Паўн. |

Даведачнае выданне

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Энцыклапедыя ў 2 тамах

Том 2

**Рэдактары:**
В.В. Грынявецкі, В.С. Пазднякоў, М.І. Рэмяніца, Л.У. Языковіч

**Навукова-літаратурны кантроль:**
Ю.В. Бажэнаў, В.М. Лапцева, Т.У. Люковіч, Е.П. Фешчанка

**Мастак** З.Э. Герасімовіч

**Мастацкія рэдактары:**
А.А. Драбышэўскі, Н.Дз. Канстанцінава, В.Г. Паўлавец

**Мастацка-тэхнічная падрыхтоўка ілюстрацый:**
А.А. Драбышэўскі

**Тэхнічны рэдактар** Н.М. Шэвель

**Картографы:** В.Ф. Надзененка, Г.Р. Шыкунова

**Камп'ютэрная вёрстка:**
І.М. Кузьмянкова, А.Л. Шалканаўцава

**Камп'ютэрны набор:**
Р.У. Дзявочка, Н.М. Зубкевіч, Л.М. Клепікава, Н.У. Мітраховіч,
В.С. Пазднякоў, Т.М. Саленік, Н.А. Стасевіч

**Карэктары:**
В.А. Кульбіцкая, А.У. Курчатава, В.М. Чудакова



Падпісана да друку 01.08.2007. Фармат 84×108 1/16. Папера афсетная. Гарнітура OfficinaSans. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 83,16. Ум. фарб.-адб. 333,48. Ул.-выд. арк. 117,93. Тыраж 3000 экз. Заказ 93.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0131958 ад 25.05.2007 г.
Рэспубліка Беларусь. 220012, Мінск, завулак Калініна, 16.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве
«Мінская фабрыка каляровага друку».
Рэспубліка Беларусь. 220024, Мінск, Каржанеўскага, 20.

В 99 **Вялікае** княства Літоўскае : Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2 : Кадэцкі корпус—Яцкевіч / Рэдкал. : Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. З.Э. Герасімовіч. — 2-е выд. — Мінск : БелЭн, 2007. — 792 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0394-8.

Энцыклапедыя адлюстроўвае гісторыю і культуру шматнацыянальнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага на працягу ўсяго перыяду яе існавання (13—18 ст.). Змешчаны артыкулы, прысвечаныя гісторыі ВКЛ, яго адміністрацыйна-тэрытарыяльным адзінкам, дзяржаўнаму і палітычнаму ладу, сімволіцы, народам і мовам, сацыяльным групам насельніцтва, сельскай гаспадарцы, рамяству, гандлю, грашоваму абарачэнню, войску, царкве, асвеце, літаратуры, мастацтву. Энцыклапедыя ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, картамі.

**УДК 94(476)«12/17»(031)**
**ББК 63.3(4Бел)я2**

